# Зьмест

**II. Канфэсіі**

**III. Вайна і акупацыя**

**IV. За кардонам**

**V. Маргіналіі**

# Прадмова

Я ніколі ня жыў у Беларусі, толькі зрэдку, у летні час, наведваў бацькавых сваякоў на Браслаўшчыне і матчыных на Беласточчыне. З гэтай прычыны, па сутнасьці, ніколі ня меў магчымасьці канфрантаваць ідэалізаванае хатняе нацыянальна–арыентаванае выхаваньне зь беларускімі рэаліямі — у даваенныя дзіцячыя гады на гэта было зарана, а пазьней — амаль немагчыма. У гэтых адносінах нічога не давалі літоўскія і польскія школы, няшмат скарыстаў і з бацькавай бібліятэкі, якая згарэла падчас ваенных дзеяньняў у ліпені 1944 г. Усё ж ніколі не пакідала мяне жаданьне пазнаць мінуўшчыну і сучаснасьць Беларусі — сапраўднай радзімы маіх бацькоў, якая мне была ўжо толькі ўяўнай бацькаўшчынай.

У 1952 г. скончыў Галоўную школу плянаваньня і статыстыкі ў Варшаве, атрымаў дыплём магістра эканамічных навук і пачаў працаваць малодшым асыстэнтам на катэдры эканамічнай геаграфіі гэтай школы. Акрамя дыдактычных заняткаў, неабходна было акрэсьліць напрамак дасьледчыцкіх зацікаўленьняў і тэму будучай доктарскай дысэртацыі. З такой мэтай і згодна з профілем школы я заняўся вывучэньнем становішча сельскай гаспадаркі ў міжваенны пэрыяд ува ўсходняй і заходняй частках падзеленай Беларусі. Кожную вольную хвіліну працаваў у варшаўскіх бібліятэках, у якіх аказалася неспадзявана шмат афіцыйных савецкіх і польскіх публікацыяў па гэтым пытаньні. На іх падставе апрацаваў падрабязны статыстычны аналіз разьвіцьця сельскагаспадарчай вытворчасьці, параўноўваючы абедзьве часткі краіны, між іншым, паказаў яе рэгрэс у БССР як вынік праведзенай гвалтоўнай калектывізацыі.

Аднак у 1950–я гады, калі прыклад СССР быў асноўным канонам разьвіцьця сатэліцкіх краін, калі і ў іх ажыцьцяўлялася палітыка калектывізацыі сельскай гаспадаркі, такія мае досьледы ні ў якой меры не адпавядалі "адзінаправільным" ідэалягічным устаноўкам. Паводле іх, ня факты абумоўлівалі такія ці іншыя высновы, але наадварот — яны, факты, павінны былі служыць адпаведнай ілюстрацыяй загадзя акрэсьленых палітычна правільных тэзаў. З такім прынцыпам я не хацеў пагадзіцца і адмовіўся ад афіцыйнай навуковай кар'еры.

Неўзабаве ўзьніклі новыя пэрспэктывы і магчымасьці. На пачатку 1956 г. я атрымаў цікавую і свабодную ад ідэалягічных штампаў працу ў Польскай зьнешнегандлёвай палаце, у якой да пэнсіі займаўся вывучэньнем каньюнктуры міжнароднага рынку хімічных вырабаў. Выкананьне службовых задач у многім залежала ад маёй працавітасьці і спраўнасьці, таму можна было назапасіць час і прызначыць яго на свае дасьледчыцкія патрэбы. У гэтым самым годзе ў Польшчы было заснавана Беларускае грамадзка–культурнае таварыства, пачаў выходзіць у Беластоку штотыднёвік "Ніва". Гэтая падзея ўзбудзіла маю зацікаўленасьць гісторыяй беларускага нацыянальнага руху на Беласточчыне, яго пачынальнікамі і дзяячамі. Аднак такія пытаньні ня ўкладваліся ў пляны працы катэдраў ці інстытутаў гісторыі, не адпавядалі яны і задачам БГКТ, таму давялося працаваць самастойна, безь нічыёй інсьпірацыі і фінансавай дапамогі, з марнай надзеяй на магчымасьць публікацыі дасьледчыцкіх вынікаў.

Гэтыя акалічнасьці, а таксама службовыя і хатнія заняткі не спынілі досьледаў. Пачынаючы зь першых 1960–х гадоў, я прысьвячаў нямала часу вывучэньню гісторыі беларускага школьніцтва, вынікам чаго былі тры распрацоўкі — "Нарыс разьвіцьця школьніцтва на Беласточчыне 1773—1939 г.", "Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе 1941—1944 г." і "Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасьляваенны пэрыяд", у якіх разглядалася стаўленьне і мерапрыемствы зьменлівых дзяржаўных уладаў па арганізацыі беларускіх школаў. Усё ж, нягледзячы на розныя цяжкасьці і мае сумневы, гэтыя працы зацікавілі выдаўцоў, аднак, надзіва, не зь беларускага, але польска-

га боку. Першы артыкул надрукавала Беластоцкае навуковае таварыства ў беларускамоўным "Навуковым зборніку", да якога кіраўніцтва БГКТ фактычна ня мела ніякога дачыненьня. Разгляд дзейнасьці школаў падчас нямецкай акупацыі, якая моцна палохала беларускіх дзяячоў у Беластоку, быў бязь цяжкасьцяў апублікаваны ў варшаўскім "Przeglądzie Historyczno-Oświatowym" (1976 г.), а апісаньне пасьляваенных пэрыпэтыяў гэтых школаў выдала асобнай брашурай Беластоцкая гарадзкая ўправа (1976 г.).

Па магчымасьці спрыяў і галоўны рэдактар "Нівы" Юрка Валкавыцкі*, які зьмяшчаў мае нарысы першапраходчыкаў беларускай справы на Беласточчыне, палемічныя і іншыя артыкулы. На жаль, з увагі на невялікі аб'ём штотыднёвіка, рэдакцыя магла карыстацца толькі кароткімі тэкстамі. У гэтым пляне большыя магчымасьці давалі "Беларускія календары" БГКТ, аднак іх зьмест пільна кантраляваўся чыноўнікамі міністэрства ўнутраных спраў, што ўплывала на завостраную аўтацэнзуру рэдактараў. З гэтай прычыны зьмешчаны ў гэтым выданьні нарыс "Непакорная Вера" двойчы адкідаўся і быў надрукаваны толькі ў 1990 г., калі ўжо не было цэнзуры і ніштo не пагражала рэдактару. Затое ў календары на 1978 г. неспадзявана прайшоў артыкул пра беларускую школу ў Варшаве, якая працавала падчас нямецкай акупацыі, галоўным чынам дзякуючы таму, як прыдачліва ў ім распавядалася пра сувязі двух яе пэдагогаў з польскім камуністычным падпольлем.

З паловы 1970–х гадоў я заняўся вывучэньнем кнігавыдавецкай і палітычнай дзейнасьці Вацлава Іваноўскага — аднаго зь піянэраў беларускага нацыянальнага руху. На зацікаўленьне гэтым дзячом паўплывалі перш за ўсё размовы з прафэсарам БДУ Сьцяпанам Александровічам, які бадай упершыню раскрыў мне яго ролю і значэньне ў працэсе змаганьня за дзяржаўнасьць Беларусі, за што абвінавачваўся ўладамі БССР ува ўсіх магчымых грахах і быў імі асуджаны на вечны нябыт у народнай памяці. Гэта інтрыгавала і будзіла жаданьне праверыць закіды супраць Іваноўскага. Пачаліся досьледы яго дзейнасьці ў Пецярбургу, Вільні, Варшаве і Менску — вывучаліся архіўная дакумэнтацыя, пэрыёдыкі, успаміны і рэляцыі сьведкаў, што дазволіла абгрунтаваць беспадстаўнасьць многіх хлусьлівых прыёмаў беларускіх савецкіх публіцыстаў.

Сабраная на працягу некалькіх гадоў дакумэнтацыя, праўда, дазваляла падрыхтаваць манаграфію аб жыцьці і дзейнасьці Вацлава Іваноўскага, аднак з увагі на стаўленьне да СССР яе публікацыя ў Польшчы ўяўлялася немагчымай. Таму давялося пайсьці альтэрнатыўным шляхам — апрацоўваць і публікаваць у навуковых пэрыёдыках паасобныя артыкулы, у якіх пад нэўтральнымі загалоўкамі разглядаліся асноўныя пытаньні яго дзейнасьці. Такім чынам, у 1980–х г. у друку зьявіліся пяць грунтоўных распрацовак, якія без асаблівых цяжкасьцяў выкарыстоўваліся ў выданьнях Інстытуту гісторыі і Інстытуту славістыкі Польскай акадэміі навук, а таксама Беластоцкага навуковага таварыства. Першым быў артыкул "Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру", у якім разглядалася дзейнасьць Вацлава Іваноўскага ў гады другой сусьветнай вайны на фоне польска–беларускіх судачыненьняў. Спрыяў гэтай справе і тагачасны дырэктар Інстытуту славістыкі прафэсар Васіль Белаказовіч, які ў інстытуцкіх выданьнях зьмясьціў тры артыкулы аб яго кнігавыдавецкай працы на пачатку XX ст.

Гэты альтэрнатыўны шлях аказаўся даволі ўдалым: пасьля вялікіх палітычных зьмен ува Ўсходняй Эўропе апублікаваныя раней распрацоўкі былі хутка дапоўненыя і склаліся ў даўно задуманую манаграфію "Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі", выдадзеную ў 1992 г. Інстытутам гісторыі ПАН. Кніга выклікала жывое зацікаўленьне ў Польшчы і Беларусі, зьявіліся навуковыя рэцэнзіі, палемічныя агляды, асобныя яе раздзелы перакладаліся і друкаваліся ў беларускіх часопісах "Нёман" (1992 г.), "Маладосць" (1994 г.) і "ARCHE" (1999 г.). Досьледы кнігавыдавецкага пытаньня працягваліся ў на-

---

* Валкавыцкі Георгі (нар. 1923) — галоўны рэдактар газэты "Ніва" ў 1956—1987 гг. — *А.П.*

ступныя гады, а іх вынікам былі дзьве чарговыя працы: “Беларуская кніга ў міжваеннай Польшчы 1921—1939” і “Беларуская кніга пад нямецкім кантролем 1939—1944”.

Пытаньні жыцьця ў гады нямецкай акупацыі цікавілі мяне, па сутнасьці, заўсёды, на што ўплывалі ўласныя назіраньні і дасьведчаньні ў Дукштах і Вільні. Вайна перш за ўсё прадухіліла далейшую дэпартацыю насельніцтва Літвы савецкімі ўладамі, і таму прыход немцаў успрымаўся з палёгкай. Хутка была створана літоўская адміністрацыя і самаахова, якая здолела даволі пасьпяхова забясьпечыць край перад разьвіцьцём савецкай партызаншчыны, і таму насельніцтва бадай не адчувала жорсткасьцяў партызанскай вайны. У той час я вучыўся ў пачатковай школе і гімназіі, не адчуваў фашысцкай ідэалягічнай індактрынацыі і ў сваім 12—15–гадовым узросьце амаль не цікавіўся вялікай палітыкай. Аб падзеях у Беларусі ведаў толькі тое, пра што паведамлялі ў віленскім штотыднёвіку “Беларускі Голас”*.

11 ліпеня 1944 г. у Дукшты вярнулася Чырвоная Армія, і ў той самы дзень адбыўся мітынг насельніцтва, на якім савецкі афіцэр расказаў нам аб нашых цярпеньнях падчас нямецкай акупацыі. “Зьвесткі” афіцэра, які лепш за нас саміх ведаў нашае становішча, пачаткова выклікалі зьдзіўленьне і кпіны, аднак неўзабаве іх сталі паўтараць франтавыя газэткі, якія распаўсюджваліся салдатамі. Успомніўся савецкі анэкдот пра агітатара, які славіў нейкае зьдзяйсьненьне ў абласным горадзе і на заўвагу аднаго з прысутных, што нічога падобнага той там ня бачыў, адказаў: “Ты лучше по городам не шляйся, а газеты читай!” Але трактоўка акупацыі была не да сьмеху. Загадзя былі падрыхтаваны прапагандысцкія тэзы, якія неўзабаве сталі абавязковымі для дасьледчыкаў акупацыі. Іх нязгодныя выказваньні маглі трактавацца як прапаганда фашызму, высоўвацца зь імі было рызыкоўна.

Бадай найбольш жорсткія прынцыпы асьвятленьня пытаньняў акупацыі былі ўстаноўлены ў Беларусі. Спатрэбілася нават прынятая ў лютым 1945 г. спэцыяльная рэзалюцыя ЦК КПБ аб перавыхаваньні грамадзтва ў духу савецкага патрыятызму і нянавісьці да нямецкіх акупантаў, якіх у той час ужо не было на беларускай зямлі. Згодна з такімі патрабаваньнямі, беларускія савецкія гісторыкі, публіцысты, пісьменьнікі і мастакі садзейнічалі стварэньню і пашырэньню мітаў аб гераічнай барацьбе народу зь нямецкімі захопнікамі, шальмавалі беларускіх палітычных дзяячоў, якія імкнуліся выкарыстаць умовы акупацыі для ўмацаваньня нацыянальных сілаў і іх падрыхтоўкі да змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць краіны. Замоўчвалася або фальсыфікавалася дзейнасьць беларускага школьніцтва, праца ўстановаў культуры, выдавецтваў, Саюзу беларускай моладзі. Выключную нянавісьць выклікаў галоўны рэжысэр гэтых мерапрыемстваў генэральны камісар Вільгельм Кубэ, якому прапагандысты надалі эпітэт “ката беларускага народу” і губляліся ў сваіх здагадках, колькі мільёнаў беларусаў імкнуўся ён зьнішчыць.

Прапагандысцкія прыёмы ня толькі выключалі магчымасьць альтэрнатыўных дасьледаў, але таксама ўзбуджалі пачуцьцё небясьпекі і страху сярод патэнцыйных невыгодных сьведкаў. Таму ім лепш было нічога ня ведаць, маўчаць, каб ня быць западозранымі ў калябарацыянізьме. З такім стаўленьнем я сутыкнуўся падчас падрыхтоўкі працаў аб беларускіх школах, якія ў гады нямецкай акупацыі існавалі на Беласточчыне і ў Варшаве, — цяжка было ад іх настаўнікаў атрымаць неабходную інфармацыю. Маючы за сабой літоўскі досьвед, я проста не разумеў, у чым прычына такога стаўленьня. Калі восеньню 1944 г., г.зн. ужо ў савецкай Літве, вярнуўся ў сваю гімназію, вучылі нас пераважна тыя самыя настаўнікі, што і падчас акупацыі. Ніхто іх за гэта не рэпрэсаваў, а тагачасны прафэсар Віленскага ўнівэрсытэту Тадас Іванаўскас, дарэчы, брат Вацлава Іваноўскага, у 1946 г. атрымаў нават мэдаль “За доблестный труд в годы Великой Отечественной войны” за тое, што ў той цяжкі час рупіўся аб адукацыі літоўскай моладзі. А

* Рэдагаваная Ф. Аляхновічам газэта “Biełaruski Hołas” выходзіла ў акупаванай немцамі Вільні з 1942 па 1944 г. — *А.П.*

беларускія пэдагогі за тое самае гібелі ў савецкіх турмах і лягерох.

Літоўскі досьвед і звычайная лёгіка пераконвалі, што пытаньні нямецкай акупацыі можна разглядаць ня толькі праз прызму інтарэсаў Масквы, Бэрліна і Варшавы, але перш за ўсё з пункту гледжаньня беларускага нацыянальнага інтарэсу. Такое палажэньне адлюстроўвалі мае працы аб дзейнасьці Вацлава Іваноўскага, але, шырэйшы паглыблены экскурс у акупацыю адбыўся не па маёй ініцыятыве. У 1982 г. прафэсар Пётар Ласоўскі* з Інстытуту гісторыі ПАН пасьля азнаямленьня з маёй працай “Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру” прапанаваў мне падрыхтаваць доктарскую дысэртацыю аб асноўных пытаньнях акупацыі ў Беларусі. Я згадзіўся: некалькі гадоў працаваў у архівах, бібліятэках, ліставаўся з удзельнікамі і сьведкамі тагачасных падзеяў. Пасьля пасьпяховай абароны дысэртацыі ў 1986 г. даволі хутка надыйшлі выдавецкія прапановы. Кніга пад загалоўкам “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” мела два выданьні ў Польшчы (1989 і 1993 г.) і адно ў Беларусі ў перакладзе Валерыі Ждановіч (1993 г.), а яе газэтны варыянт у перакладзе Уладзімера Панады яшчэ ў 1991 г. надрукавала “Чырвоная змена”.

Кніга карысталася значным посьпехам, хутка зьнікала з польскіх і беларускіх кнігарняў, нават прадавалася па спэкуляцыйных цэнах, аднак новая трактоўка акупацыйнай гісторыі прыйшлася недаспадобы беларускім уладам і афіцыйным гісторыкам, стрымана паставіліся да яе і беларускія эмігранцкія публіцысты. Праўда, ніхто зь іх не аспрэчыў прыведзеных дакумэнтаваных фактаў, аднак, відаць, ім было выгадней трымацца ранейшых прыгожых мітаў.

Што ж, гісторыя быццам нічога не перадвызначае, але спрыяе мысьленьню, пошукам аптымальных рашэньняў на будучыню і, такім чынам, датыкае палітыкі. Аднак у сутыкненьні з палітыкай яна часта бясьсільная. Камэнтуючы ў лістападзе 1993 г. выпуск кнігі “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”, тагачасны прэм’ер ураду Рэспублікі Беларусі Вячаслаў Кебіч заявіў: “Гісторыя сказала сваё слова”. Маўляў, яе перагляд непатрэбны.

*Юры Туронак*

* Ласоўскі (Łossowski) Пётар — польскі гісторык, аўтар шматлікіх працаў па гісторыі польска–літоўскіх узаемадачыненьняў і гісторыі польскай дыпляматыі. — *А.П.*

## ***Нацыянальная мова і сьвядомасьць***

# Па плёнах пазнаеце іх

Такой фразай закончыў А. Каваль свой артыкул, прысьвечаны 100–гадоваму юбілею Івана Луцкевіча (Ніва. 7 чэрвеня)[1]. Вывад лягічны, паколькі ацэнка дзейнасьці чалавека, які адыграў акрэсьленую гістарычную ролю, павінна абапірацца на вывучаных і несумненных актах — яго жыцьцёвых плёнах.

Чытаючы фрагмэнты артыкула Каваля, якія датычаць пецярбурскага "Круга беларускай народнай прасьветы" і Беларускай сацыялістычнай грамады, узьнікае пытаньне — а які быў канкрэтны ўдзел Івана Луцкевіча ў іх заснаваньні і дзейнасьці? Каваль абыходзіць гэтае пытаньне, агульна сьцьвярджаючы выдатную ролю юбіляра ў беларускім адраджэнскім руху данашаніўскай пары. Прыведзеныя прыклады яго дзейнасьці на заводзе Якабсона ў Менску падчас расейскай рэвалюцыі 1905 г. (палкая прамова, сыгнал забастоўкі), вядома, не вычэрпваюць пытаньня.

Гэтая справа істотная ня толькі для вывучэньня жыцьцяпісу Івана Луцкевіча, але і ў шырэйшым гістарычным кантэксьце. Што нам па сутнасьці вядома пра пецярбурскі "Круг" ці БСГ, пра іх заснавальнікаў, пра напрамкі і вынікі іх дзейнасьці? Словам, пра ўсё тое, што трапна акрэсьліў Каваль як пачатак палітычнай самаарганізацыі дэмакратычных сілаў Беларусі на грунце барацьбы супраць нацыянальнага і сацыяльна–палітычнага прыгнёту. Усе кажуць гатовымі фармулёўкамі, markdown рознакаляровымі цэтлікамі, якіх ня толькі адценьні, але і істота мяняецца ў залежнасьці ад патрабаваньняў часу, у якім мы жывем. А дзе факты, канкрэты?

Вось толькі адзін прыклад з гісторыі БСГ. Вядомы публіцыст Антон Луцкевіч найбольш угрунтаваў погляд, што папярэдніца БСГ — Беларуская рэвалюцыйная грамада — паўстала ў Пецярбургу *ўвосень 1903 г.* Гэты погляд у наш час паўтараецца менскімі гісторыкамі (гл.: Беларуская савецкая энцыкляпэдыя, пяцітомнік "Гісторыя БССР" і іншыя). Тым часам гектаграфічны часопіс "Свабода", які быў адбіты ў двары Іваноўскіх — у Лябёдцы на Лідчыне, — быў выдадзены Беларускай рэвалюцыйнай грамадой *у пачатку студзеня 1903 г.*, а падрыхтаваны ў Пецярбургу ў канцы 1902 г.! Але ж і БРГ не была першай. Яе папярэдніца — Беларуская рэвалюцыйная партыя — нарадзілася ў Пецярбургу не пазьней *чэрвеня 1902 г.*, калі яшчэ братоў Луцкевічаў там увогуле не было.

Цяжка паверыць, каб Антон Луцкевіч ня ведаў аб тым, што першая беларуская палітычная партыя арганізавалася *на год зь лішнім раней*, чым падаваў ён неаднаразова ў сваіх публікацыях. Можна затое зразумець матыў гэтай "дробязі", якая чамусьці засталася па–за ўвагай гісторыкаў: яны жадалі стварыць у асобе брата Івана "патрыярха" адраджэнскага руху, яго пачынальніка, што патрабавала адпаведнай падтасоўкі датаў узьнікненьня самой Грамады.

Гэтай асноўнай тэндэнцыі падпарадкоўваліся некаторыя дадзеныя ў біяграфіі Івана Луцкевіча, якія пасьля яго сьмерці падаваў Антон у сваіх брашурах (Памяці Івана Луцкевіча. Вільня 1920 г.; За 25 гадоў. Вільня 1928 г.) і шматлікіх артыкулах. Яны былі па сутнасьці адзінай крыніцай інфармацыі, у выніку чаго адыгралі вырашальную ролю ў

[1] Маецца на ўвазе артыкул Алеся Каваля (Аляксея Каўкі) "Іван Луцкевіч. 1881—1919". Акрамя Туронка, у дыскусіі выступіла Аляксандра Бэргман, якая 26 ліпеня 1981 г. надрукавала артыкул "Спрэчка пра Івана Луцкевіча", дзе крытыкавала пэўныя выказваньні як Каваля, так і Туронка. — *Алесь Пашкевіч (далей А.П.)*

фармаваньні нашых ведаў пра Івана Луцкевіча. Некаторыя з гэтых дадзеных зь несумненна добрай верай паўтараў і Каваль. Вось прыклады:

1. Артыкул Івана Луцкевіча ў часопісе "Ukrainische Rundschau" (Вена 1904 г.), які выдаваўся д–рам Кушнірам... Праверка ў бібліятэцы Варшаўскага ўнівэрсытэту паказала, што такі часопіс сапраўды выходзіў у Вене, але толькі з 1906 году, а ў 1904 г. выдаваўся "Ruthenische Rundschau", і да таго ня Кушнірам, а Яворскім, Косам і Сембратовічам[2]. Ужо гэта падрывае верагоднасьць інфармацыі, што аўтарам адзінага артыкула пра Беларусь "Totgesagte Weissrussland" (прыгавораная да сьмерці Беларусь), які паявіўся ў № 19 (1904 г.) за подпісам Г. Палісандэра, можна лічыць Івана Луцкевіча (наўрад ці гэты энтузіяст беларускай справы даў бы такі пэсымістычны загаловак...).

2. Іван Луцкевіч сабраў значную колькасьць экспанатаў для пазьнейшага Беларускага музэю ў Вільні, але гэтага яшчэ мала, каб ацэньваць яго як "дасьледчыка матэрыяльнай і духоўнай культуры старажытнай Беларусі". Наколькі вядома, не паявілася ў друку ніводная яго навуковая распрацоўка. Ня быў Луцкевіч і адкрывальнікам кітабаў — яны ўжо ў палове XIX ст. вывучаліся прафэсарам Пецярбурскага ўнівэрсытэту А. Мухлінскім[3].

3. Не магу пагадзіцца зь сцьвярджэньнем, што Іван Луцкевіч адыграў вырашальную ролю ў заснаваньні "Нашай Долі", якую пачалі выдаваць Францішак Умястоўскі і Іван Тукеркес[4]. Праўда, браты Луцкевічы імкнуліся пераняць кіраўніцтва газэтай і, калі гэта не ўдалося, пасьля выпуску чацьвертага нумару "адкалоліся" і пачалі выдаваць "Нашу Ніву". Факт, што ў падзагалоўку "Нашай Нівы" падавалася "*першая* беларуская газэта з рысункамі", у гэтым кантэксьце вельмі сымптаматычны: ён адлюстроўваў тэндэнцыю непрызнаваньня ў той час "не сваёй" "Нашай Долі".

На заканчэньне некалькі слоў аб "эвалюцыі" Івана Луцкевіча і грамадаўцаў, якія, паводле Каваля, пасьля паражэньня рэвалюцыі 1905 г. адыйшлі ад актыўнай рэвалюцыйнай барацьбы на асьветніцкія пазыцыі. Погляд, вядома, ня новы: ужо ў 20–я гады менавіта так ацэньвалі нашаніўцаў камуністы і эсэры. Варта, аднак, на гэтую "эвалюцыю" глянуць ня толькі зь левых пазыцыяў, але і з правых. Вось як характарызаваў нашаніўцаў *сучасьнік* Рамуальд Зямкевіч у лісьце да Аляксандра Ельскага ад 21 сакавіка 1909 г.:

> Niektórych pisarzy białoruskich i prowodyrów ruchu znam osobiście. Nie podobają mi się jedynie z tego względu, iż *zamiast pracować nad oświatą ludu, prowadzą propagandę socyalistyczną,*

---

[2] "Ukrainische Rundschau" ("Украінскі агляд") — украінскі штомесячны часопіс, які выходзіў у 1903—1915 г. (да 1905 г. называўся "Ruthenische Revue") на нямецкай мове ў Вене. Прызначаўся для іншаземных дыпляматычных і культурніцкіх колаў. Выдаўцом часопіса лічыўся В. Яворскі, а галоўным рэдактарам — В. Кушнір.
Яворскі Васіль (1854—1926) — украінскі грамадзка–палітычны дзеяч з Галіччыны, паводле адукацыі юрыст, у 1900—1907 г. дэпутат аўстрыйскага парлямэнту.
Сембратовіч Раман (1875—1905) — украінскі грамадзка–палітычны дзяяч з Галіччыны, журналіст і публіцыст, інфарматар нямецкага грамадзтва пра ўкраінскія справы. Сябра студэнцкага таварыства "Січ" у Вене. — *А.П.*

[3] Прафэсар турэцкае мовы і пісьменства Пецярбурскага ўнівэрсытэту Аляксандар Восіпавіч Мухлінскі (1808—1877) у 1857 г. выдаў працу "Исследование о происхождении и состоянии литовских татар". — *А.П.*

[4] У дадзеным выпадку Аўтар выкарыстоўвае зьвесткі, зьмешчаныя ўва ўспамінах Ф. Умястоўскага "Аб «Нашай Долі»", зьмешчаных у газэце "Беларускія ведамасьці" за 26 верасьня 1921 г. Між тым, да гэтай інфармацыі таксама належыць ставіцца крытычна, хоць бы з увагі на наступную адносна невялікую ў параўнаньні з братамі Луцкевічамі заангажаванасьць у беларускі рух Францішка Ўмястоўскага і асабліва Івана Тукеркеса. — *А.П.*

> *rozbudzając wałkę kłasową* (падкрэсьлена намі. — *Ю.Т.*). Perswazje i spory z nimi na nic się zdały, próbowalem tego w Wilnie, lecz na próżno[5].

Як бачым, тое, што ў нашаніўцаў сёньня ацэньваецца часам як “белае”, калісь выглядала аж надта “чырвоным”. Паўтараецца старая праўда, што тэорыя адноснасьці можа прымяняцца ня толькі ў фізыцы...

Ушаноўваючы памяць выдатнага сына Беларусі Івана Луцкевіча з нагоды 100–годзьдзя з дня яго нараджэньня, з жалем даводзіцца заўважыць, што гэты юбілей мы адзначаем амаль з пустымі рукамі. Не дасьледаваныя найбольш элемэнтарныя факты яго біяграфіі, не праверaны недакладныя і не заўсёды аб’ектыўныя зьвесткі, апублікаваныя яго братам Антонам. Як піша Антон Луцкевіч, восеньню 1902 г. Іван паступіў у Пецярбурскі археалягічны інстытут, які закончыў на працягу двух (!) гадоў. Паводле Беларускай савецкай энцыкляпэдыі, археалёгію закончыў ён у Маскве, а А. Бэргман[6] падае, што ў Вене. Сапраўды, можна было б пасьмяяцца, калі б не было так сумна... Час, вялікі час выправіць памылкі і паказаць нашчадкам праўдзівую постаць Івана Луцкевіча і верагодны яго жыцьцёвы плён.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1981. 21 чэрвеня.

[5] Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie, Zespół Prozorów i Jelskich. Materiały dot. literatury białoruskiej.

[6] Бэргман Аляксандра (1906—2005) — польскі гісторык, у міжваенны пэрыяд актыўная дзяячка Камуністычнае партыі Заходняй Беларусі, пасьля вайны — аўтарка шэрагу навуковых працаў па гісторыі беларускага нацыянальнага і рэвалюцыйнага руху. — *А.П.*

# Па сьлядох “Свабоды”

Па–рознаму склаліся лёсы беларускіх пазацэнзурных пэрыёдыкаў другой паловы XIX і пачатку XX ст. Некаторыя зь іх, як, напрыклад, “Мужыцкая праўда” (1862) і “Гомон” (1884), дачакаліся шматлікіх распрацовак і, тым ня менш, далей прыцягваюць увагу дасьледчыкаў.

У гэтых адносінах рашуча не шанцавала “Свабодзе”, задуманай як падпольны рэвалюцыйны часопіс. На гэта былі істотныя прычыны: па–першае, наколькі вядома, часопіс не распаўсюджваўся і, па–другое, да гэтай пары ня знойдзены яго поўны тэкст. Усё ж само зьяўленьне “Свабоды” было цікавай і немалаважнай падзеяй у беларускім руху, у сувязі з чым зьвесткі пра яе неаднаразова паяўляліся як у даваенных, так і пасьляваенных выданьнях. Пры гэтым не абышлося і без кантравэрсіяў, між іншым, адносна даты выпуску.

Першы па гэтым пытаньні выказаўся Максім Гарэцкі, які ў сваёй “Гісторыі беларускае літаратуры” (1920. С. 206) падаў, што “Свабода” выйшла ў *1903 годзе*. Аляксандар Бурбіс крыху пазьней пісаў, што яна паўстала ў *1902 годзе* (Вестник Наркомпрос[а] БССР. 1921. № 1), а Антон Луцкевіч ня раз заяўляў, што яе выданьне адбылося ў *1905 годзе* (гл. яго: За двадцаць пяць гадоў. 1903—1928. С. 16; Народная справа. 1926. № 20). Сам жа выдавец “Свабоды”, Вацлаў Іваноўскі, у сваім лісьце Адаму Станкевічу ад 16 лістапада 1934 г. сьцьвердзіў, што яна паўстала *зімой 1899/1900 году*, на што Станкевіч заўважыў, што, на яго думку, адбылося гэта “*якімі двума гадамі пазьней*” (гл. яго: Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. 1934. С. 73). На гэтую інфармацыю Іваноўскага абапіраюцца сучасныя дасьледчыкі і публіцысты (гл.: История белорусской дооктябрьской литературы. Минск, 1977. С. 353).

Як бачым, атрымаўся значны разнабой, які магла вырашыць адпаведная першакрынічная інфармацыя. Вядома, такую інфармацыю магла б даць сама “Свабода”, аднак яе пошукі ў Польшчы і СССР пакуль што не далі жаданага выніку. Ці была яшчэ іншая магчымасьць адшукаць загадкавую “Свабоду” або хаця б дакладныя зьвесткі пра яе?

Такую магчымасьць падказваў Іваноўскі, які ў цытаваным лісьце Станкевічу адзначыў, што адбіты на цыклястылі (гектографе) у двары яго бацькоў у Лябёдцы на Лідчыне тыраж “Свабоды” 200 экзэмпляраў ён адвёз неадкладна ў Варшаву, на кватэру свайго брата Юр’я, адкуль мелі яе распаўсюджваць варшаўскія беларусы. На жаль, у сувязі з арыштам Юр’я на яго кватэры адбыўся вобыск і амаль увесь дастаўлены зь Лябёдкі тыраж дастаўся царскай паліцыі.

Гэтая інфармацыя сугеравала мэтазгоднасьць пошукаў у актах варшаўскай ахранкі. Тут нам крыху пашанцавала. У Галоўным архіве старадаўніх актаў былі знойдзены матэрыялы пракурора Варшаўскай судовай палаты, а ў іх ліку — аб’ёмістая справа Юр’я Іваноўскага (сыгнатура 3107). Як сьведчаць дакумэнты, ён быў арыштаваны ў ноч з 14 на 15 студзеня 1903 г. (новага стылю, прынятага ў польскіх губэрнях). Адначасова на яго кватэры быў учынены вобыск і складзены пратакол канфіскаваных рэчавых доказаў яго “праступнай дзейнасьці”. У іх ліку ў пратаколе значыўся... *№ 1 за 1903 год революционного журнала на белорусском языке “Свабода”*!

Такім чынам былі атрыманы першыя дакумэнтальныя зьвесткі пра “Свабоду”, якія дазволілі дакладна акрэсьліць час яе выпуску. Супастаўляючы гэтыя зьвесткі зь літаратурнымі дадзенымі, у прыватнасьці, з цытаванай кніжкай Станкевіча, можам рэканструяваць ход падзеяў, якія папярэдзілі паўстаньне “Свабоды”.

Задума стварэньня нелегальнага і незалежнага беларускага выдавецтва паўстала ў студэнта Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту В. Іваноўскага не пазьней вясны 1902 г. Першым крокам у ажыцьцяўленьні гэтага праекту было здабыцьцё апарату для размножваньня тэкстаў, на што ён прызначыў увесь свой заробак зь летняй студэнцкай практыкі. Восеньню 1902 г. гэты апарат (цыклястыль) быў куплены нелегальна, у чым Іваноўскаму дапамог Мечыслаў Міхаловіч — тагачасны дзяяч ППС у Пецярбургу і пазьнейшы прафэсар і рэктар Варшаўскага ўнівэрсытэту[1].

Восеньню гэтага ж году ў Пецярбург прыбылі некалькі студэнтаў–першакурсьнікаў, якія неўзабаве ўключыліся ў падрыхтоўку "Свабоды". У іх ліку Алёйзія Пашкевічанка (Цётка), якая дэбютавала менавіта на старонках гэтага часопіса (верш "Мужыцкая доля"). Паводле Іваноўскага, у рэдакцыйнай працы ўдзельнічаў таксама Іван Луцкевіч, чаго, аднак, не пацьвердзіў Антон Луцкевіч ні ў воднай сваёй публікацыі. У гэтай справе Іваноўскаму дапамагаў яшчэ і Лявон Малецкі. Рукапісныя матрыцы (кірыліцай) падрыхтавалі Рамуальд Мілер і Вінцук Валейка. Тэхнічная работа была выканана ў Лябёдцы ў часе канікулаў у канцы сьнежня 1902 году па старым стылі. Тут адбіваньнем "Свабоды" займаліся Вацлаў і Тадас Іваноўскія і Антон Валейка з братам.

Вернемся яшчэ да лёсу гэтага часопіса, паколькі пададзеную вышэй вэрсію аб яго канфіскацыі нельга лічыць здавальняючай. Справа ў тым, што, як паказвае пратакол вобыску, на кватэры Юр'я Іваноўскага быў знойдзены *не амаль увесь тыраж "Свабоды", а толькі адзін яе экзэмпляр*. У гэтым не было сумневу: пратакол быў надта падрабязны, у ім падавалася нават колькасьць чыстых паштовак.

Што ж тады сталася з "Свабодай", куды падзеўся яе наклад? Няўжо Юры Іваноўскі пасьпеў перадаць яго ў адпаведныя рукі, пакінуўшы сабе толькі адзін адбітак? Думаю, што не. У наступныя гады абодва браты былі ж у цесным кантакце, і аб такой перадачы Вацлаў быў бы паінфармаваны.

Выглядае, што прадстаўленая В. Іваноўскім вэрсія аб канфіскацыі ў Варшаве не адпавядала сапраўднасьці. Да таго гэта не была яго адзіная вэрсія. Так, напрыклад, Луцкевіч, спасылаючыся на расказ Іваноўскага, пісаў у сваіх успамінах, што *ўвесь тыраж "Свабоды" быў зьнішчаны яшчэ ў Лябёдцы*, прычынай чаго было набліжэньне паліцыі. Аднак і гэтая вэрсія малапераканаўчая, паколькі паліцыя канфіскавала б і цыклястыль, якім карыстацца без дазволу ўладаў было забаронена. Тым часам апарат быў спакойна адпраўлены ў Пецярбург і працягваў служыць беларускай справе (у 1903—1904 г. на ім адбіваліся "Калядная" і "Велікодная пісанкі").

Такім чынам, паколькі не было канфіскацыі ў Варшаве і налёту паліцыі на двор у Лябёдцы, можна меркаваць, што "Свабода" была зьнішчана без удзелу паліцыі. Ведаем, што адбіты тыраж знаходзіўся ў руках Вацлава Іваноўскага, аднак, неверагодна, што ён сам зьнішчыў плён сваёй і таварышавай працы. Праўдападобна, у справу ўмяшаўся бацька, правадзейны стацкі саветнік, які на Каляды прыехаў зь Пецярбургу ў Лябёдку і прытармазіў "рэвалюцыйныя парывы" 22–гадовага сына.

Аб гэтым дазваляе меркаваць яшчэ адна вэрсія, апублікаваная ў 1921 годзе Бурбісам, вэрсія тонкая і вымоўная, паводле якой ужо толькі "*пры паліцэйскіх варунках* усё выданьне прышлося зьнішчыць". Так ці інакш, справа закончылася няўдачай, пасьля чаго трэба было неяк растлумачыць таварышам факт зьнікненьня "Свабоды". Пры гэтым Іваноўскі быў непасьлядоўны і, як бачым, даваў штораз іншае тлумачэньне.

Узьнікае пытаньне, чаму гэты твор пецярбурскіх студэнтаў аказаўся такім небясьпечным, што спатрэбілася яго зьнішчэньне. Поўны адказ на гэтае пытаньне можа даць толькі дэталёвае знаёмства зь зьместам "Свабоды", калі камусь пашчасьціць яе адшукаць. З актаў справы Юр'я Іваноўскага яна зьнікла. Можна думаць, што падзяліла лёс

[1] Міхаловіч Мечыслаў (1876—1965) — польскі палітычны і грамадзкі дзяяч, лекар. Рэктарам Варшаўскага ўнівэрсытэту быў у 1930—1931 г. — *А.П.*

іншых канфіскаваных прадметаў, згодна з рэзалюцыяй начальніка Варшаўскага жандарскага ўпраўленьня генэрал–маёра Чаркасава ад 14 чэрвеня 1903 г.: “Вещественные доказательства уничтожить”.

Усё ж пэўную характарыстыку зьместу часопіса прывесьці можна. Так, напрыклад, з кніжкі Станкевіча ведаем, што на яго васьмі старонках вялікага (канцылярскага) фармату быў зьмешчаны адзін артыкул на палітычную тэму і другі аб асобнасьці беларускага народу ў параўнаньні з суседнімі народамі. Іх зьмест нам невядомы. Вядомы затое ўспомнены верш Цёткі “Мужыцкая доля”, які не вызначаўся выразна рэвалюцыйным ці антыўрадавым характарам і неўзабаве быў перадрукаваны ў “Каляднай пісанцы на 1904 год”.

Істотнае значэньне для акрэсьленьня ідэйнай накіраванасьці “Свабоды” мае чарговы верш зь яе першага нумару, знойдзены нядаўна ў фондзе лёнданскага архіву ППС, які захоўваецца ў Цэнтральным архіве ЦК ПАРП у Варшаве (сыгнатура 305/III/55 pt. 12). Гэта верш Сыракомлі “Добрыя весьці”, які пасьля перапрацоўкі рэдактарамі “Свабоды” атрымаў цалкам іншы сэнс, дастасаваны да новых умоў рэвалюцыйнай барацьбы. Перапрацоўка верша адбывалася ў двух напрамках:

— па–першае — замены ўсіх антырускіх акцэнтаў. Так, напрыклад, такія радкі Сыракомлі, як “лягчэй будзе сэрцу, як згінець маскаль”, або “ня прыйдзе вораг з маскоўскага краю”, атрымалі ў “Свабодзе” наступнае гучаньне: “лягчэй будзе сэрцу, як згіне наш цар” і “ня прыйдзе вораг з чужога краю”.

— па–другое — прапагандаваная Сыракомлем клясавая згода і супрацоўніцтва паміж шляхтай і сялянствам у “Свабодзе” замяняецца ідэяй рабоча–сялянскай салідарнасьці. Вось характэрны прыклад перапрацоўкі:

| **Сыракомля:** | **“Свабода”:** |
|---|---|
| Мужык з панамі стаіць за–пан–браце,<br>Рука за руку, а грудзь за грудзь.<br>Пяром на карце, ды сахой на ніве<br>Адзін другому роўнасьць засьцярог. | Мужык з рабочым стаіць за панбраце<br>Рука за руку, грудзь за грудзь.<br>Рукой у фабрыцы, сахой на ніве<br>Адзін другому вольнасьць засьцярог. |

Цікава і тое, што перапрацаваны верш “Добрыя весьці” праектаваўся выдаўцамі “Свабоды” як лістоўка для распаўсюджваньня сярод беларускага насельніцтва. На гэта паказвае наступны дапісак на архіўным дакумэнце: “Wicek prosi o wydrukowanie 2000 egz.”[2]. “Wicek” — гэта псэўданім Яна Руткевіча — члена Цэнтральнага рабочага камітэту ППС. Аднак лістоўка не была надрукавана, а тэкст верша вярнуўся ў Варшаву. Дзякуючы гэтаму ў наш час ён зьяўляецца цікавым і рэдкім сьведчаньнем аб “Свабодзе”.

Урэшце, некалькі слоў да пытаньня, якая арганізацыя выдала гэты адзіны нумар “Свабоды”. I тут выказваліся неаднолькавыя погляды. Бурбіс і Станкевіч лічылі, што яе выдаў пецярбурскі Круг беларускай народнай прасьветы, а Гарэцкі і Луцкевіч — што яна была органам Беларускай рэвалюцыйнай грамады (БРГ). Другі погляд выказваў і аўтар гэтых радкоў.

Аднак знойдзены архіўны дакумэнт (“Добрыя весьці”) змушае перагледзець усе гэтыя выказваньні. На ім зьнізу знаходзіцца наступны дапісак: “З № 1 “Свабоды” Б.П.Р.”. Гэта ініцыялы *Беларускай рэвалюцыйнай партыі — папярэдніцы БРГ*. Да гэтай пары было вядома, што БПР у 1902 годзе выдала ў Пецярбургу толькі адну гектаграфаваную адозву “Да інтэлігенцыі”. Сёньня маем дакумэнтальную падставу для сьцьвярджэньня, што другім яе выданьнем была “Свабода”.

*Друкуецца паводле: Ніва. 1981. 25 кастрычніка, 1 лістапада.*

---

[2] “Віцэк просіць надрукаваць 2000 паасобнікаў” (пол.). — *А.П.*

# Удзел М. Фальскага ў беларускім выдавецкім руху

Ува ўмовах існых да 1905 г. забаронаў і абмежаваньняў царскіх уладаў магчымасьці выданьня беларускіх кніг на тэрыторыі Расейскай імпэрыі былі вельмі невялікія. Таму энтузіясты гэтай справы, як, напрыклад, Францішак Багушэвіч, Аляксандар Ельскі, Напалеон Чарноцкі*, Мар'ян Абрамовіч** і іншыя, а таксама дзяячы Польскай сацыялістычнай партыі выкарыстоўвалі магчымасьці друку за мяжой, найперш у Тыльзыце, Кракаве, Львове і Лёндане.

У 1903 г. нелегальную беларускую выдавецкую дзейнасьць за мяжой (у Кракаве) распачала тройца студэнтаў, у якую ўваходзілі: Мар'ян Фальскі з Політэхнічнага інстытуту ў Варшаве, Вацлаў Іваноўскі з Тэхналягічнага інстытуту ў Пецярбургу і Сьцяпан Багушэўскі зь Ягелонскага ўнівэрсытэту ў Кракаве. Праект такога прадпрыемства ўзьнік, мабыць, улетку 1903 г. у выніку дамоўленасьці Іваноўскага з Багушэўскім, які той парой праводзіў вакацыі ў свайго швагра д–ра Амброжага Кастравіцкага ў Лідзе, паблізу якой знаходзіўся маёнтак Іваноўскіх у Лябёдцы. Багушэўскі паходзіў зь Меншчыны і ўдзельнічаў у беларускім руху, між іншым, у Беларускай сацыялістычнай грамадзе і Беларускім сялянскім саюзе. Ён ведаў Фальскага з той пары, калі яны разам вучыліся ў Менскай гімназіі, і бадай у найбольшай ступені спрычыніўся да яго заангажаваньня ў беларускую выдавецкую справу.

Удзел Фальскага ў гэтым прадпрыемстве палягаў у падрыхтоўцы да друку пераважнай часткі заплянаваных матэрыялаў. У канцы 1903 г. ён пераклаў на беларускую мову "Янку–музыканта" Генрыка Сянкевіча, "Да свайго Бога" Стэфана Жаромскага*** і апавяданьне неўстаноўленага аўтара "Ведзьма", узяўшы псэўданім Янка Сваяк. Апрача гэтага, ён падрыхтаваў тэкст вялікай адозвы "Царская гаспадарка", выкарыстоўваючы для гэтай мэты выдадзеныя ППС у Лёндане беларускія агітацыйныя брашуры, перш за ўсё беларускі пераклад "Ojca Szymona", які выйшаў пад назвай "Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць" (у арыгінале: "Гуторка об тым, куды мужыцкіе грошы ідуць").

Істотную дапамогу ў рэалізацыі гэтага праекту аказала славутая піяністка, а пасьля і залвіца Іваноўскага, Катажына Ячыноўская, якая ахвяравала неабходныя фінансавыя сродкі, каб пакрыць выдаткі на друк. У пачатку студзеня 1904 г. атрыманыя такім чынам грошы і рукапісы Фальскага і іншых Багушэўскі прывёз у Кракаў, дзе яны былі выдрукаваныя ў друкарні Уладзіслава Тэадарчука ў сакавіку і красавіку 1904 г. Для поўнай рэалізацыі выдавецкай праграмы не хапіла толькі апавяданьня Жаромскага "Да свайго Бога", што, мабыць, абумовілі тэхнічныя прычыны. Яно было закароткае і не надавался да друку ў выглядзе асобнай брашуры, якая б налічвала толькі дзьве старонкі. Аднак гэтае апавяданьне было троху пазьней выдадзенае ў Вільні літаграфічным спосабам. Адзіны ў Польшчы асобнік знаходзіцца ў Галоўным архіве старадаўніх актаў у Варшаве і калекцыі Прозараў і Ельскіх (справа $140_2$), на якім відаць уласнаручную дапіску Фальскага "litogr. Wilno 1904".

* Пра Чарноцкага пісалі: Адам Прухнік у "Polskim Słowniku Biograficznym" (T. IV), Аляксандар Сьнежка ў "Ziemi Lidzkiej", 1937, № 8. Вялікі біяграфічны матэрыял быў апублікаваны ў "Księdzie Pamiątkowej PPS". Warszawa, 1923. S. 48—61.

** Абрамовіч Мар'ян (1871—1925) — польска–беларускі культурны дзяяч, удзельнік рэвалюцыйнага руху. — *А.П.*

*** Жаромскі Стэфан (1864—1925) — польскі пісьменьнік, якога называюць "сумленьнем польскае літаратуры". — *А.П.*

Варта заўважыць, што пад адозвай “Царская гаспадарка” не фігураваў ні псэўданім аўтара, ні таксама подпіс нейкай арганізацыі. У міжваенную пару гэтую адозву намагаліся зьвязаць зь дзейнасьцю пэўнай партыі. Акадэмік Я. Карскі цьвердзіў, што яе выдала Беларуская сацыялістычная грамада, а Аляксандар Бурбіс і Антон Луцкевіч — што Сацыялістычная партыя Белай Русі[1]. Выглядае на тое, што яна не была вядомая таксама Леану Васілеўскаму, аднаму з найлепшых знаўцаў ППС у нацыянальных пытаньнях, які, зрэшты, у 1904 г. жыў у Кракаве (пар. яго: Litwa i Białoruś. Kraków, 1912). Гэтыя акалічнасьці паказваюць, што ініцыяваная Іваноўскім, Фальскім і Багушэўскім выдавецкая актыўнасьць была цалкам самастойная і не кіравалася або інсьпіравался ні ППС, ні БСГ. З Кракава гэтыя выданьні паступова перавозілі празь зялёную мяжу ў Варшаву, а адтуль на Беларусь, дзе іх распаўсюджвалі як дзяячы ППС, так і БСГ, а таксама энтузіясты, якія не належалі да ніводнай з гэтых партыяў.

Увосень 1904 г. пасьля пачатку расейска–японскай вайны група сяброў ППС у Варшаве і Горадні, да якой належалі ў тым ліку Мар’ян Фальскі, Францішак Завадзкі і Станіслаў Трускоўскі, пачала выдаваць адозвы на беларускай мове. Згодна з прынятай у чэрвені 1903 г. пастановай Цэнтральнага рабочага камітэту ППС аб невыдаваньні пад эгідай гэтай партыі прапагандысцкай літаратуры на беларускай мове, адозвы былі падпісаныя імем фікцыйнай Сацыялістычнай партыі Белай Русі. У цэнтральным архіве ЦК ПАРП захаваліся арыгіналы пяці гэтых адозваў. Гэта “Братцы мужыкі”, “Прызыўныя”[2] і “Якая карысьць народу з выбарнага правіцельства” (кастрычнік 1905). У арыгінале “Прызыўные” і “Якая карысьць народу з выбарнага правіцельства”. Тут і далей правапіс гэтых назваў прыведзены ў адпаведасьці з сучаснымі нормамі. — *Рэд.*

Варта наапошку паказаць на пэўную ролю Фальскага ў падрыхтоўцы практычна першага беларускага лемантара, за напісаньне якога — дзеля нястачы адпаведных філёлягаў — узяўся ў канцы 1904 г. інжынэр–хімік Іваноўскі. Згодна з вусным паведамленьнем, атрыманым у траўні 1979 г. ад Марыі Арнольдавай зь сям’і плоцкіх Альтбэргаў, у якіх Іваноўскі быў частым госьцем, ён тады праходзіў пасьлядыплёмную практыку ў цукроўні Баравічкі і разам з Фальскім удзельнічаў у напісаньні гэтага лемантара. Цяжка сказаць, у чым палягаў гэты суўдзел, бо і Фальскі ня быў тады філёлягам, а інжынэрам. Аднак як узор для перайманьня быў узяты лемантар Промыка, па якім, мабыць, абодва яны і вучыліся чытаць і пісаць.

Удзел Фальскага ў беларускай дзейнасьці доўжыўся менш за два гады і — як пісаў Фальскі ў сваіх успамінах — быў адно яго другарадным грамадзкім інтарэсам. Аднак яго гэтая дзейнасьць пакінула цямкі сьлед у гісторыі беларускага пісьменства.

*Крыніцы:*

1. Архіў Ягелонскага ўнівэрсытэту, справа S II 797: акты беларускага акадэмічнага гуртка ў Кракаве (1904 г.).

2. Цэнтральны архіў ЦК ПАРП, справа 305/III/3 вопіс 3: пратакол канфэрэнцыі ЦРК ППС ад 17 сьнежня 1903 г., а таксама 305/V/14 вопіс 12: падаўстрыйская Польшча: адозвы 1892—1918.

3. Галоўны архіў старадаўніх актаў у Варшаве, калекцыя Прозараў і Ельскіх, справа $140_2$.

4. Вуснае паведамленьне Марыі Арнольдавай у траўні 1979 г.

5. Александровіч С. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971.

*Пераклад зроблены паводле:* Przegląd Historyczno–Oświatowy. 1982. № 3—4.

[1] Як праклямацыя СПБР гэты дакумэнт апублікаваны ў кнізе “Социялістычны рух на Беларусі ў праклямацыях 1905 году”. (Менск, 1927). — *Анатоль Сідарэвіч (далей А.С.).*

[2] Гэтая ўлётка таксама апублікаваная ў кн.: Социялістычны рух на Беларусі ў праклямацыях 1905 году. Менск, 1927. — *А.С.*

* Выразам “зялёная мяжа” на прафэсійным жаргоне кантрабандыстаў абазначаліся палі і лясы ўздоўж дзяржаўнай мяжы, празь якія ажыцьцяўлялася незаконная перапраўка тавару. — *А.П.*

# Вакол абставінаў публікацыі “Дзядзькі Антона”

У 1892 годзе беларускай моваю зьявілася ананімная брашура, поўная назва якой гучала: “Дзядзька Антон, або Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — ня ведаем”. (У арыгінале “Дзядзька Антон або Гуторка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — ня ведаім.” — *Рэд.*). Брашура была надрукаваная лацінскім шрыфтам і зьмяшчала 46 старонак невялікага фармату (16°). На тытульнай бачыне напісана, што яна была выдадзеная ў Вільні ў друкарні Марыі Красоўскай, а на адвароце была пастаўленая прыпіска: “Дозволено цензурою. Вильна, 10 ноября 1891 г.”. Насамрэч, “Дзядзька Антон” быў пераробкаю польскай агітацыйнай брашуры “Ojciec Szymon”[1], прызначанай да змаганьня з царызмам і прапаганды сацыялістычных ідэяў у Беларусі. Пададзеныя выдаўцом зьвесткі аб месцы выданьня, друкарні й цэнзуры былі тыповай канспірацыйнай выдумкай і мелі мэтаю зрабіць выгляд, што выданьне легальнае, і тым самым пазбавіць ад магчымых клопатаў яго распаўсюднікаў і чытачоў. Адначасова ў той самай друкарні зьявіліся дзьве нелегальныя брашуры на польскай мове — “Kilka uwag” і “Jan Skiba”[2].

Першыя згадкі пра зьяўленьне гэтых брашур, зьмешчаныя ў лёнданскім “Przedświcie”[3], з зразумелых прычынаў не зьмяшчалі ніякіх падрабязнасьцяў, якія маглі б указваць на сапраўднае месца іх выданьня ці на выдаўца[4]. Толькі ў 1910 годзе сацыялістычны дзяяч Фэлікс Пэрль[5] прызнаўся, што яны былі выдадзеныя ня ў Вільні, а ў Тыльзыце, але, дарма што мінулася шмат гадоў, ува ўмовах царскага рэжыму ён не наважыўся раскрыць асобу выдаўца, пакідаючы толькі ягоныя ініцыялы — М.А.[6]. Прозьвішча выдаўца, а быў гэта жыхар Масквы й былы студэнт Маскоўскага ўнівэрсытэту 22–гадовы Мар’ян Абрамовіч[7], было раскрытае толькі ў міжваенныя гады Напалеонам Чарноцкім, Людвікам Абрамовічам[8] і згаданым Пэрлем[9].

---

[1] Гэтая польская народніцкая брашура выйшла ў сьвет у 1878 г. у двух варыянтах пад назвамі: “Opowiadanie starego gospodarza” (“Апавяданьне старога гаспадара”) і “Opowiadanie o biedzie” (“Апавяданьне пра бяду”). Толькі ў пазьнейшыя часы брашура стала называцца “Ojciec Szymon”. Яе аўтарам лічыцца вядомы польскі сацыяліст Шымон Дыкштэйн (1858—1884). — *А.П.*

[2] Аўтарам другой брашуры лічыцца вядомы польскі філёзаф і палітычны дзяяч Эдвард Абрамоўскі (1868—1918). — *А.П.*

[3] “Przedświt” — сацыялістычны часопіс на польскай мове, які выдаваўся ў 1881—1905 г. у розных эўрапейскіх гарадох: Жэнэве, Ляйпцыгу, Лёндане, Парыжы і Кракаве. У 1884—1886 г. быў органам арганізацыі “I Пралетарыят”, з 1888 г. — арганізацыі “II Пралетарыят”, з 1893 г. — Замежнага зьвязу польскіх сацыялістаў, з 1900 г. — Польскай сацыялістычнай партыі. — *А.П.*

[4] Z tajnej drukarni // Przedświt. 1892. № 35. S. 1; а таксама: Bibliografia wydawnictw nielegalnych // Przedświt. 1893. № 1. S. 27.

[5] Пэрль Фэлікс (1871—1927) — польскі палітычны дзяяч габрэйскага паходжаньня, адзін зь лідэраў Польскай сацыялістычнай партыі. — *А.П.*

[6] Perl F. Dzieje ruchu socjalistycznego w zaborze rosyjskim. Warszawa, 1910. T. I. S. 351.

[7] Абрамовіч Мар’ян (1871—1925) — польска–беларускі культурны дзяяч, удзельнік рэвалюцыйнага руху. — *А.П.*

[8] Абрамовіч Людвік Кароль (1879—1939) — польскі гісторык, грамадзкі дзяяч, журналіст, выдавец. У 1911—1939 г. рэдагаваў віленскую польскую газэту “Przegląd Wileński”. — *А.П.*

[9] Czarnocki N. Marian Abramowicz (wspomnienie pośmiertne) // Przegląd Wileński. 1925. № 1. S. 5—6; Abramowicz L. Abramowicz Marian // Polski Słownik Biograficzny. Kraków, 1935. T. I. S. 13—14; Perl F. Dzieje ruchu socjalistycznego w zaborze rosyjskim (do powstania PPS). Warszawa, 1932. S. 393.

Абставіны, пры якіх Абрамовіч выдаў польскамоўныя брашуры “Kilka uwag” і „Jan Skiba”, дагэтуль не прыцягнулі ўвагі дасьледнікаў, што, магчыма, вынікала з факту, што сацыялістычнай літаратуры на польскай мове досыць шмат было ў тыя часы, а зьяўленьне новых выданьняў, як правіла, не было выключнай падзеяй. Але ж справа выданьня “Дзядзькі Антона” набыла цалкам іншае літаратуразнаўчае значэньне дзеля таго, што гэта была адна зь першых спробаў, скіраваных на адраджэньне беларускага пісьменства. Гэтая акалічнасьць, відавочна, цікавіла дасьледнікаў беларускай літаратуры, у выніку чаго паходжаньне “Дзядзькі Антона” зрабілася прадметам падрабязных дасьледаваньняў.

Пры гэтым не абышлося бяз спрэчак, якія асабліва датычыліся аўтарства беларускай пераробкі “Ojca Szymona” і яе выдаўца. Першым сярод беларускіх літаратуразнаўцаў на гэты конт выказаўся ў 1920 годзе Максім Гарэцкі, сьцьвярджаючы, што выдаўцом “Дзядзькі Антона” быў студэнт Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту Адам Гурыновіч. Пры гэтым Гарэцкі не пацьвердзіў свайго выказваньня ніводным доказам, зрэшты, ён ня быў абавязаны рабіць гэтага ў сваім прызначаным для вучняў сярэдніх школаў падручніку літаратуры[10]. У той самы час Рамуальд Зямкевіч прадставіў іншую вэрсію, паводле якой аўтарам “Дзядзькі Антона” быў Абрамовіч, а яе выдаўцамі — тыльзыцкія літоўцы[11].

Нічога новага ў гэтую справу не дадаў Яўхім Карскі, які ў 1922 годзе без камэнтароў паўтарыў вэрсіі Гарэцкага й Зямкевіча[12]. Такім чынам, гэты знакаміты навуковец, безумоўна, ненаўмысна, спрычыніўся да зьяўленьня ў беларускім літаратуразнаўстве доўгатрывалых спрэчак пра асобу аўтара й выдаўца “Дзядзькі Антона”.

У пяцьдзясятыя гады беларускія дасьледнікі Іван Лушчыцкі[13] і Сьцяпан Майхровіч[14], ня ведаючы пра згаданыя вэрсіі Чарноцкага, Людвіка Абрамовіча і Пэрля, а таксама пра апублікаваныя Вацлавам Ластоўскім успаміны тыльзыцкага друкара гэтай брашуры Марціна Янкуса[15] ці ігнаруючы іх, надалей сьцьвярджалі, што яе выдаўцом быў Гурыновіч, прычым адсутнасьць доказаў пакрывалі аўтарытэтам Карскага. Лушчыцкі пісаў, што “такі сур’ёзны дасьледнік, як акадэмік Карскі, ня мог галаслоўна сьцьвярджаць гэтага факту”[16]. Разьвіваючы сваю тэзу, Лушчыцкі дайшоў да высновы, што Гурыновіч быў ня

---

[10] Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920. С. 101. Варта заўважыць, што ўжо ў пазнейшыя гады Гарэцкі адмовіўся ад свайго цьверджаньня. Гл.: Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Выд. 4. Менск, 1926. С. 162.

[11] Карский Е.Ф. Белорусы. Петроград, 1922. Т. III. Ч. 3. С. 154.

[12] Тамсама. С. 77 і 154.

[13] Лушчыцкі Іван (1907—1973) — беларускі філёзаф, сярод іншага дасьледаваў сьветапогляд многіх беларускіх культурных і грамадзка–палітычных дзяячоў. — *А.П.*

[14] Майхровіч Сьцяпан (1908—1981) — беларускі літаратуразнаўца. — *А.П.*

[15] Ластоўскі В. Беларускія (крыўскія) друкі ў Тыльзыце // Крывіч. Коўна. 1926. № 1(11). С. 106. Згаданая інфармацыя знаходзіць пацьверджаньне ў дзёньніках Янкуса, што знаходзяцца ў Аддзеле рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільні. Пар. Merkys V. Lietuvos valstiečiai ir spauda XIX a pabaigoje — XX a. pradžioje. Vilnius, 1982. S. 229. — *Ю.Т.*

Водгукам на гэтую публікацыю В. Ластоўскага была зацемка А. Луцкевіча (гл: . L.A. [Łuckiewicz Antoni] Miscellanea białoruskie // Przegląd Wileński. № 15. 1926).

Луцкевіч вяртаўся да гэтага пытаньня ў сваім рэфэраце “Białorusini i ich organ «Homon» (Przyczynek do ewolucji ideologii politycznej Białorusinów w XIX wieku)”, машынапіс якога захоўваецца ў БДАМЛМ (ф. 3, воп. 1, адз. захав. 271, арк. 3—17). Тамсама (арк. 19—23) захоўваюцца 4 рукапісныя ўстаўкі да гэтага тэксту. Ува ўстаўцы да с. 8 машынапісу гаворка ідзе — з спасылкаю на ліст Н. Чарноцкага — пра слуцкую рэвалюцыйную моладзь, у прыватнасьці, пра Антона Ражава і Валасовіча. — *А.С.*

[16] Лушчыцкі І. Нарысы па гісторыі грамадска–палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку. Мінск, 1958. С. 338.

толькі выдаўцом, але й суаўтарам “Дзядзькі Антона”[17]. Яшчэ далей у сваіх домыслах пасунуўся Майхровіч, згодна зь якімі Гурыновіч быў і выдаўцом, і аўтарам гэтай брашуры[18].

Беспадстаўнасьць гэтых домыслаў выявіў у 1961 годзе Сьцяпан Александровіч, які, аналізуючы гісторыю “Дзядзькі Антона”, падсумаваў дагэтулешні стан ведаў пра абставіны выданьня гэтай брашуры і паставіў Абрамовіча на належнае яму месца, то бок на месца яе выдаўца[19]. Таксама Александровіч паспрабаваў вызначыць аўтара тае брашуры, хаця й ня меў добрага матэрыялу для доказаў. Таму паўсталі новыя домыслы, паводле якіх гэтым разам як суаўтарам, так і аўтарам (sic!) беларускай пераробкі “Ojca Szymona” быў Абрамовіч[20]. Тэза гэтая абапіралася на перакананьне Александровіча, быццам Абрамовіч добра ведаў беларускую мову[21]. Гэтая аргумэнтацыя была даволі пераканаўчаю, у сувязі з чым справа “Дзядзькі Антона” выглядала скончанаю.

Але неўзабаве былі выяўленыя новыя нечаканасьці. Ужо напрыканцы 1971 году Генадзь Каханоўскі[22] на старонках менскага “Полымя” абвесьціў вынікі сваіх дасьледаваньняў у львоўскім гістарычным архіве, дзе натрапіў на невядомае да гэтага часу беларускае выданьне пад назваю “Старая прысказка”. Гэтая брашура была надрукаваная лацінкаю ў Польскай друкарні ў Львове ў 1887 годзе. Як паказваў паліцыйны рапарт ад 25 лютага 1887 году, наклад яшчэ не збрашураванай “Старой прысказкі” быў канфіскаваны, прычым два яе асобнікі былі далучаныя да судовай справы й шчасьліва захаваліся для дасьледнікаў[23].

На падставе аналізу тэксту Каханоўскі сьцьвярджаў, што “Старая прысказка” была на пяць гадоў ранейшым варыянтам “Дзядзькі Антона”, а брашура, выдадзеная Абрамовічам у Тыльзыце, была нязначна папраўленым передрукам яе ранейшага львоўскага варыянту[24]. Гэта было сэнсацыйнае адкрыцьцё, якое цалкам па–новаму ставіла пытаньне паходжаньня “Дзядзькі Антона”. У першую чаргу, зьнікалі дагэтулешнія мудраваньні, якія тычыліся аўтарства Абрамовіча, бо, як заўважыў Каханоўскі, у часе падрыхтаваньня “Старой прысказкі” да друку ён быў яшчэ занадта малады. У полі ўвагі дасьледнікаў зьяўляліся новыя неідэнтыфікаваныя дзеячы, якія значна раней, чым Абрамовіч, паспрабавалі выдаць “Ojca Szymona” на беларускай мове. Хто былі гэтыя людзі, як брашура была выдрукаваная ў Львове, нарэшце, якім чынам асобнік канфіскаванай “Старой прысказкі” трапіў у рукі Абрамовіча — вось пытаньні, якія некалькі дзясяткаў гадоў цярпліва чакалі адказу[25].

На новыя абставіны, якія ў значнай ступені спрычыніліся да высьвятленьня гэтых пытаньняў, указваюць апублікаваныя ў 1923 г. успаміны Напалеона Чарноцкага[26]. У восемдзясятыя гады XIX ст. ён вучыўся ў гімназіі ў Слуцку і браў удзел у нелегальным моладзевым руху. З 1883 году цягам некалькіх гадоў ён быў адказны за тайную школьную бібліятэку, у якой, апроч расейскіх сацыялістычных выданьняў, мелася некалькі дзясяткаў польскіх кніжак, ахвяраваных Эмай Дмахоўскай з роду Яленскіх[27]. Але аддамо слова Чарноцкаму:

---

[17] Тамсама. С. 339.

[18] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мінск, 1959. С. 308.

[19] Александровіч С. Гісторыя з “Дзядзькам Антонам” // Літаратура і Мастацтва (далей — ЛіМ). 1961. № 61(1595). С. 4.

[20] Александровіч С. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971. С. 78—79.

[21] Тамсама. С. 79.

[22] Каханоўскі Генадзь (1936—1994) — беларускі краязнаўца, літаратуразнаўца, фальклярыст. — *А.П.*

[23] Каханоўскі Г. Львоўскае рэха // Полымя. 1971. № 11. С. 222—225.

[24] Тамсама.

[25] Тамсама. Гл. таксама: Каханоўскі Г. У неспакойным стагоддзі // Маладосць. 1979. № 2. С. 189.

[26] Czarnocki N. Przyczynki do historii PPS // Księga Pamiątkowa PPS. Warszawa, 1923. S. 48—61.

[27] Дмахоўская (Яленская–Дмахоўская) Эма (1864—1919) — польска–беларуская культурная дзеячка, пісьменьніца, рэдактарка шэрагу віленскіх асьветніцкіх выданьняў. — *А.П.*

Я пару гадоў належаў да гуртка самаасьветы, які пачаўся зь вельмі сур'ёзнага калектыўнага вывучэньня “Гістарычных лістоў” Міртава[28], якія зрабіліся для нас чымсьці накшталт катэхізісу “індывіда, які мысьліць крытычна”. З гэтага вывучэньня вырасла патрэба прапаганды набытых поглядаў. Таму мы пераклалі на беларускую мову вядомую папулярную брашуру “Ojciec Szymon” (у перакладзе “Дзядзька Антон”) і надрукавалі яе на ўласным гектографе.
Адзін зь сяброў, які праз працяглую хваробу быў адлічаны з гімназіі, атрымаў пасаду памочніка валаснога пісара, сабраўся з дапамогай гэтай брашуры прапагандаваць ідэі сацыялізму і напісаў ліст падзякі двум сябрам гуртка: Ражаву і Шыльдкрэту. Раптам абрынулася вестка пра арышт Ражава, у якога звычайна зьбіраўся гурток, дзе перапісвалі й друкавалі брашуру, пасьля драбязьлівага ператрусу, калі, на шчасьце, наклад брашуры ўжо быў забраны, а гектограф знаходзіўся ўжо ў мяне, бо павінен быў быць адасланы ў вёску да маіх бацькоў, для чаго ў той жа дзень знайшлася аказія. Ліквідацыяй гэтага “пагрому” мы ўдзячныя дасьведчанасьці нашага калегі Ражава, ягонаму самавалоданьню, дзейнаму характару і дабрадзейнасьці ягонай сям'і (бацька — вялікарус, незаможны сталяр, маці — беларуска, сам Антон Ражаў вучыўся ў восьмай клясе, адзіная надзея сям'і). Нягледзячы на пераконваньні жандараў, што толькі шчырыя прызнаньні, а таксама выдача інструктара й суўдзельнікаў уратуе Ражава ад згубы, дарма што ягоная сям'я ведала ўсіх сяброў гуртка, яны ня толькі нікога ня выдалі, але й загадзя папярэдзілі ўсіх пра небясьпеку. У доўгіх і быццам бы шчырых прызнаньнях Ражаў узяў усё на сябе.
У тым выпадку, як і ў шматлікіх іншых, энтузіязм жандараў і школьных уладаў эфэктыўна стрымліваў вядомы памочнік пракурора Ягораў. <…> Дзякуючы ягонай пратэкцыі Ражаву было дазволена скончыць гімназію, а паўгоду зьняволеньня ён адбыў у Дэрпце ўжо як студэнт вэтэрынарнага інстытуту. Ражаў быў найшляхетнейшым з прыяцеляў–маскалёў, якіх я меў у гімназіі і ўнівэрсытэце. Як вайсковы вэтэрынар ён быў сьведкам вядомага кровапраліцьця ў Пецярбургу 9 студзеня 1905 году[29] і раптоўна памёр ад гэтага ўражаньня (меў ган сэрца)[30].

Успаміны Чарноцкага сьведчаць, што першы беларускі варыянт “Дзядзькі Антона” зьявіўся ў Слуцку, а яго перакладам, ці, дакладней, пераробкай і гектаграфічным выданьнем, занялася група слуцкіх гімназістаў з Чарноцкім і Ражавым на чале. Пра тое, што Чарноцкі ведаў беларускую мову, сьведчыць ягоная пазьнейшая творчасьць на гэтай мове (пра што ніжэй). Несумненна, што яе ведаў таксама Ражаў, гэта, паводле пераказу Чарноцкага, вынікае з нацыянальнасьці ягонай маці, грамадзкага стану бацькі (незаможны сталяр) і, урэшце, факту пражываньня сям'і ў Слуцку. Далейшыя дасьледаваньні ў гэтым кірунку былі б, як падаецца, бясплённыя, асабліва таму, што Чарноцкі сьціпла змаўчаў пра свой уласны ўнёсак у рэдакцыйную падрыхтоўку “Дзядзькі Антона”. Урэшце, можна дапусьціць, што ён быў вынікам калектыўнае працы.

Паспрабуем яшчэ раз акрэсьліць дату гэтага выданьня. Вось жа, паводле архіўных дакумэнтаў, якімі карыстаўся Александровіч, у сакавіку 1886 году за чытаньне гэтай брашуры быў прыцягнуты да адказнасьці пісар Пукаўскай воласьці Ігуменскага павету на Меншчыне[31]. Ігнат Ластоўскі (напэўна, пра яго згадваў Чарноцкі), які ў сваю чаргу

---

[28] Міртаў — псэўданім вядомага расейскага пісьменьніка і палітычнага дзяяча, аднаго зь лідэраў народавольцаў Пятра Лаўравіча Лаўрова (1821—1900). “Гістарычныя лісты” — адзін з найбольш вядомых ягоных твораў, які ўпершыню зьявіўся ў друку ў 1868—1869 г. — *А.П.*

[29] Маецца на ўвазе т.зв. “крывавая нядзеля” 9 студзеня 1905 г., калі войскі расстралялі мірную дэманстрацыю, якая кіравалася да царскага палацу. Гэтую дату прынята лічыць за пачатак расейскай рэвалюцыі 1905—1907 г. — *А.П.*

[30] Czarnocki N. Тамсама. С. 51—52.

[31] Пукаў — цяпер вёска Камсамольская ў Капыльскім раёне. У 1890 г. Пукаўская воласьць была пераведзеная ў Слуцкі павет. — *А.С.*

атрымаў яе ад слуцкага гімназіста Івана Андрусевіча[32]. Паколькі слуцкі варыянт “Дзядзькі Антона” распаўсюджваўся ўжо ў першыя месяцы 1886 году, то як праўдападобную дату яго нараджэньня можна было б прыняць прыблізна канец 1885 году[33]. Доля слуцкага “Дзядзькі Антона” была шчасьлівейшай, чымся ягонага пазьнейшага львоўскага варыянту — “Старой прысказкі”. Як вынікае з згаданага пераказу Александровіча, падчасператрусу ў доме Ражава паліцыя знайшла толькі рукапіс гэтай брашуры. Таксама Чарноцкі пацьвердзіў, што ўвесь наклад быў уратаваны, з чаго можна зрабіць выснову, што яна была распаўсюджаная сярод людзей[34]. З Слуцку ці ягоных ваколіцаў “Дзядзька Антон” трапіў да Львова, дзе была зробленая няўдалая спроба выдаць яго друкам. Ня выключана, што пэўную ролю ў гэтым адыграў Вітальд Ёдка–Наркевіч[35], які хаця й пражываў у Варшаве, быў частым госьцем у сямейным маёнтку Бабоўня Слуцкага павету[36], а летам 1884 году здаваў экзамэны ў Слуцку. Красамоўны таксама факт ягонага перабываньня ў Львове ў першыя месяцы 1886 году, дзе ён хутка быў арыштаваны й высланы па–за межы Аўстра–Вугоршчыны. Але гэтая справа патрабуе далейшых дасьледаваньняў.

Увосень 1887 году Чарноцкі выправіўся ў Маскву і пачаў вывучаць мэдыцыну ўва ўнівэрсытэце.

> Даўно існавала тут, — пісаў Чарноцкі, — традыцыйная арганізацыя г.зв. “зямляцтваў”, то бок студэнцкіх гурткоў, што пераважна гуртаваліся па прынцыпе нацыянальнасьці. Мы знайшлі тут “беларускі” гурток, да якога належалі ўсе палякі, беларусы і расейцы з Слуцку, але гэты гурток з моўна–культурнага гледзішча быў чыста расейскім. Пэўная даніна беларушчыне была аддадзеная толькі праз выданьне па–беларуску “Сыгналу” Гаршына[37]. Але даўно існаваў тут і “польскі” гурток, зь бібліятэкай, польскімі балямі, аматарскімі прадстаўленьнямі і грамадзянскай тэндэнцыяй калектыўнай падрыхтоўкі да будучай дзейнасьці ў краіне[38].

---

[32] Александровіч С. Пуцявіны… С. 78. Гэты аўтар кажа, што слуцкая брашура была выдадзеная на расейскай мове. Несумненна, гаворка пра тую ж самую брашуру, пра якую пісаў Чарноцкі. У гэтым Чарноцкі ня мог памыляцца: па–першае, ён адрозьніваў беларускую мову ад расейскай і, па–другое, ён бы з пэўнасьцю не рызыкаваў падстаўляць сябе пад рэпрэсію за нелегальную выдавецкую дзейнасьць на расейскай мове. Можна дапускаць, што слуцкі “Дзядзька Антон” быў напісаны кірыліцай, што паўплывала на акрэсьленьне яго паліцыяй як брашуры на расейскай мове. Зрэшты, у той час улады не прызнавалі існаваньня беларускае мовы, лічачы яе дыялектам мовы расейскай.

[33] У часе выданьня брашуры, г.зн. у навучальным годзе 1885/86, Ражаў вучыўся ў восьмай клясе, Чарноцкі ж — у сёмай. У наступным школьным годзе яны вучыліся разам, таксама разам у 1887 годзе скончылі гімназію. Адсюль вынікае, што Ражаў другі год быў у восьмай клясе. Імаверна, акрамя адбываньня кары ў дэрпцкай турме, ён меў таксама перапынак у гімназійным навучаньні — мог сядзець пад арыштам у часе сьледзтва, мог быць часова пазбаўлены правоў вучня — пар.: Глебов И. Историческая записка о Слуцкой гимназии. Вильно, 1903. С. 214.

[34] “Старая прысказка” была адзначаная ў “Bibliografii” Паўлі Жаготы (1814—1895) з наступнай прыпіскай: “Гэта мусіць быць перадрук з выдадзенай у Менску кніжкі”, — пар.: Biblioteka Jagiellońska w Krakowie, Dział Rękopisów 5386. T. I. K. 132. Такім парадкам, Паўлі ведаў, што брашура гэта была прывезеная ў Львоў зь Беларусі, але ня ведаў іншых падрабязнасьцяў гэтай справы. Пры аказіі дзякую сп. Г. Каханоўскаму за падказку крыніцы, а бібліятэцы Інстытуту славістыкі ПАН за перадачу з Кракава адпаведнага мікрафільму.

[35] Ёдка–Наркевіч Вітальд (1864—1924) — польскі сацыялістычны палітык і публіцыст, паплечнік Юзафа Пілсудзкага. — *А.П.*

[36] Бабоўня — цяпер вёска ў Капыльскім раёне. — *А.С.*

[37] Гаршын Усевалад Міхайлавіч (1855—1888) — расейскі пісьменьнік і літаратурны крытык. — *А.П.*

[38] Czarnocki N. Тамсама. С. 52.

Розьніца паміж абодвума гурткамі была сур’ёзнаю. Калі Беларускі гурток быў рэгіянальнай студэнцкай арганізацыяй, пазбаўленай нацыянальных рысаў, дык Польскі гурток быў патрыятычнай арганізацыяй, якая ўсьведамляла свае мэты. Да таго ж, ён дзейнічаў ня ў рамах унівэрсытэту, а па–за імі і аб’ядноўваў прадстаўнікоў розных прафэсіяў, між іншага, студэнтаў, якія былі, як правіла, найактыўнейшымі яго ўдзельнікамі. У такой сытуацыі аднначасовая прыналежнасьць студэнтаў, што паходзілі зь Беларусі, да абодвух гурткоў была досыць частаю зьяваю і не стварала ніякіх праблемаў маральнага пляну. Увосень 1888 году Мар’ян Абрамовіч паступіў у Маскоўскі ўнівэрсытэт і неўзабаве стаў вядомы як адзін з найбольш актыўных удзельнікаў Польскага гуртка. У той час у Маскве таксама вучыліся Амброжы Кастравіцкі, Антон Лявіцкі (пазьней выступаў як беларускі празаік пад псэўданімам Ядвігін Ш.) і шмат іншых маладых людзей зь беларускіх земляў.

У гэтым асяродзьдзі паступова высьпявала ідэя распачаць выдавецкую дзейнасьць на беларускай мове. Першы праект — выданьне “Сыгналу” Гаршына ў перакладзе Лявіцкага — Беларускі гурток у 1891 годзе зьдзейсьніў цалкам легальна. Амаль аднначасова ў рамах Польскага гуртка пачалася нелегальная дзейнасьць, падрабязнасьці якой у пэрыяд, які нас цікавіць, Чарноцкі апісваў наступным чынам:

> Мы выдалі “Ojca Szymona” па–польску і па–беларуску і пераклад зь нямецкае “Гісторыі рэвалюцыйных рухаў у Расеі” Туна[39]. Гэта значыць, мы перакладалі, зьбіралі грошы, але рукапісы і грошы з дадаткам некалькіх падрабязных даручэньняў Мар’ян Абрамовіч вывез за мяжу; пасьля прывозіў гатовыя выданьні ў Маскву і арганізоўваў іх распаўсюджаньне[40].

Што да гэтага ня вельмі дакладнага паведамленьня паўстае пытаньне: што канкрэтна перакладалася тады ў Маскве — толькі праца Туна на польскую мову ці таксама “Ojciec Szymon” на мову беларускую? Пытаньне істотнае, паколькі мы ведаем, што беларускі тэкст “Дзядзькі Антона” ўжо існаваў у выглядзе слуцкага выданьня, яго асобнік, безумоўна, быў у Чарноцкага і ён мог перадаць яго Абрамовічу. Згаданае тэкстуальнае падабенства львоўскага і тыльзыцкага выданьняў дае падставу дапускаць, што не было зроблена новага перакладу ці пераробкі, а толькі, магчыма, ужо існы тэкст быў перапісаны лацінкаю й былі ўнесеныя пэўныя праўкі. Гэта вынікае з пазьнейшага паведамленьня Чарноцкага, паводле якога Польскі гурток у Маскве толькі пераклаў працу Туна і “пастанавіў выдаць” “Ojca Szymona” па–польску і па–беларуску[41].

У 1891 годзе, перад выездам у Тыльзыт, Абрамовіч выяўляў надзвычайную рухлівасьць. Як было высьветлена ў ходзе сьледзтва, праведзенага падпалкоўнікам Івановым з Варшаўскай губэрскай управы жандармэрыі, у тыя часы ён неаднаразова выяжджаў з Масквы ў Варшаву, Вільню, Менск і Пецярбург[42]. Ня выключана, што ў той час ён зьяжджаў таксама і за мяжу, адкуль дастаўляў нелегальныя сацыялістычныя выданьні. Але ж сярод гэтых выданьняў яшчэ не было “Дзядзькі Антона” і дзьвюх іншых выдадзеных у Тыльзыце брашур. Іх рукапісы Абрамовіч прывёз у Тыльзыт у першыя дні студзеня 1892 году, пасьля чаго адразу перадаў іх у друкарню Янкуса. Пра гэта Абрамовіч павінен быў праінфармаваць сваіх ня здольных захоўваць тайны сяброў у Кракаве, дзе знаходзіўся ў красавіку 1892 году, пра што сьведчыць захаваная ў сьледчых актах наступная справаздача варшаўскай паліцыі:

---

[39] Маецца на ўвазе кніга нямецкага навукоўца, прафэсара Базэльскага ўнівэрсытэту ў Швайцарыі Альфонса Туна. Упершыню на нямецкай мове выйшла ў 1883 г., пасьля неаднаразова перавыдавалася ў Расеі ў перакладзе на расейскую мову. — *А.П.*

[40] Czarnocki N. Тамсама. С. 54.

[41] Czarnocki N. Marian Abramowicz (wspomnienie pośmiertne) // Przegląd Wileński. 1925. № 1. S. 5—6.

[42] Archiwum m.st. Warszawy, zespół Warszawskiego Gubiernialnego Zarządu Żandarmerii, sygn. 31, sprawa Mariana Abramowicza, k. 49—50: protokół przesłuchania z 18.05.1892.

Кракаўская паліцыя мае дадзеныя, што ў студзені бягучага году прыбыў у Тыльзыт невядомы чалавек, які ў тамтэйшай друкарні Мар'яна (памылка, павінна быць — Марціна. — *Ю.Т.*) Янкуса замовіў выдрукаваньне значнай колькасьці рэвалюцыйных выданьняў з мэтаю дастаўкі іх у Расею. Невядомы прадставіўся спачатку як Абрамовіч, а пазьней — як Маліноўскі–Залеўскі і Штэле (Stelle)[43].

Даручэньне Абрамовіча Янкус выканаў вельмі хутка — магчыма, цягам двух–трох тыдняў, так што ў канцы студзеня 1892 году "Дзядзька Антон", "Kilka uwag" і "Jan Skiba" былі ўжо надрукаваныя і зброшураваныя. Адразу пасьля гэтага Абрамовіч выехаў у Бэрлін, адкуль 8 лютага 1892 г. пісаў да лёнданскіх таварышаў з рэдакцыі "Przedświtu" наступнае: "Таксама я нядаўна паслаў Вам сьвежа выдадзеныя тры брашуркі (адна зь іх беларуская); гэта рэчы ня новыя, але на сёньняшні час вельмі патрэбныя"[44].

Такім чынам, было скончанае заплянаванае Чарноцкім, Абрамовічам і іншымі дзеячамі маскоўскага Польскага гуртка пачынаньне. Яго высока ацаніла рэдакцыя „Przedświtu", зьмясьціўшы ў канцы лютага на бачным месцы наступнае паведамленьне:

Апошнім часам мы атрымалі тры новыя выданьні, якія выпусьціла ў сьвет краёвая арганізацыя ў падрасейскай Польшчы. <…> Усе тры кнігі адзначаюцца вельмі добрым друкам і нават зброшураваныя. Дзейнасьць нашых таварышаў заслугоўвае сапраўднай павагі. Энэргія, якую выказвае тайная друкарня, вартая перайманьня. Мы сьпяшаемся ў некалькіх словах выразіць нашыя найлепшыя пажаданьні таварышам, якія так сумленна робяць сваю працу[45].

Абрамовіч тым часам працягваў сваё падарожжа, набываючы сацыялістычныя выданьні на польскай, расейскай і габрэйскай мовах, якія накіроўваў да Янкуса ў Тыльзыт. З Бэрліна ён накіраваўся ў Франкфурт, Жэнэву і Цурых, быў таксама ў Львове і Кракаве, адкуль у канцы красавіка 1892 году прыехаў у Варшаву, дзе 2 траўня быў арыштаваны падчас расклейваньня ў Лазенкаўскім парку патрыятычных адозваў[46]. Адсюль вынікае, што дастаўкай "Дзядзькі Антона" ў краіну, а тым больш яго распаўсюджаньнем Абрамовіч займацца ня мог. Якім жа чынам цікавая нам брашура трапіла да беларускіх чытачоў?

---

[43] Тамсама. К. 304: Данясеньне Варшаўскага акруговага ўпраўленьня жандармэрыі, 14.09.1892.

[44] Centralne Archiwum KC PZPR, szgn. 305/VII/60, k. 1: list Abramowicza z 08.02.1892.

[45] Z tajnej drukarni // Przedświt. 1892. № 35. S. 1. Тайная нацыянальная друкарня Марыі Красоўскай, пра дзейнасьць якой так падрабязна пісаў "Przedświt", насамрэч не існавала. Але постаць Марыі Красоўскай не была прыдуманая. Як вынікае зь сьледчае справы Абрамовіча, гэта была на год маладзейшая ад яго студэнтка фэльчарскіх курсаў у Маскве, адкуль яна была выключаная за ўдзел у студэнцкіх бунтах у студзені 1891 году. На падставе знойдзеных 33 лістоў і фатаграфіі, падпісанай Абрамовічу, варшаўская паліцыя ўстанавіла, што яны кахалі адно аднаго. Але ў сярэдзіне лістапада 1891 году Красоўская выйшла замуж за доктара Юліяна Ганусовіча і пасялілася ў мястэчку Шаты Вількамірскага павету ў Літве. Абрамовіч увекавечніў прозьвішча сваёй каханай на тыльзыцкіх брашурах, прычым прыблізная дата яе шлюбу была пададзеная як дата дазволу цэнзуры на іх друк.

[46] Абрамовіч атрымаў суровы прысуд: 2 гады правёў у зьняволеньні падчас сьледзтва, 3 гады ў пецярбурскіх "Крестах" і 6 гадоў у сасланьні ў Верхаянску. Пасьля вайны жыў у Варшаве, дзе памёр 7.01.1925 г. Пры аказіі варта паправіць дату яго нараджэньня — 13.01.1871 г., падаваную часта ў розных публікацыях, напэўна, паводле яго біяграфіі, надрукаванай Людвікам Абрамовічам у "Polskim Słowniku Biograficznym". Насамрэч ён нарадзіўся 13.03.1870 г., што вынікае з дакумэнтаў, якія знаходзяцца ў яго сьледчай справе.

Шмат паказвае на тое, што да гэтага спрычыніўся Аляксандар Сулькевіч[47], які з 1890 году цягам некалькіх наступных гадоў працаваў на мытні на расейска–ўсходняпрускай мяжы, адначасова займаючыся буйнамаштабнай кантрабандай нелегальнай літаратуры ў межы Расеі[48]. У канцы сьнежня 1891 году ён сустракаўся з Абрамовічам у Варшаве і, напэўна, дапамог яму ў небясьпечнай пераправе празь зялёную мяжу[49]. Але пасьпяхова надрукаваць “Дзядзьку Антона” не азначала яшчэ, што ўсе клопаты скончыліся, бо й гэтая брашура не пазьбегла канфіскацыі, на шчасьце, часовай, гэтым разам прускай паліцыяй на пачатку красавіка 1892 году. Вось паведамленьне Сулькевіча з гэтай нагоды, якое адначасова паказвае яго ролю ўва ўратаваньні “Дзядзькі Антона”:

> Шаноўны Таварышу! — пісаў Сулькевіч 2 чэрвеня 1892 году ў Лёндан. — Кагадзе атрымаў Ваш ліст. Пра канфіскацыю ў Тыльзыце ведаю толькі наступнае: Сьцізорык (вядомы ў Тыльзыце пад прозьвішчам А. Маліноўскі)[50], акрамя выдадзеных там, прывёз зь некалькіх месцаў вялікую колькасьць кніжак для перавозкі ў Каралеўства і ўсё гэта склаў у Янкуса — уласьніка друкарні. Будучы ў Швайцарыі, Сьцізорык перадаў на адрас Янкуса дзьве пасылкі кніжак, адну зь якіх канфіскаваў прускі ўрад, далей быў зробленыператрус у Янкуса і забраныя ўсе кнігі, якія толькі былі на складзе, а Янкуса прыцягнулі да адказнасьці. Суд прызнаў яго невінаватым, але кнігі не вярнулі. Я намагаўся вярнуць канфіскаванае праз знаёмых у Тыльзыце, але ўсе намаганьні былі безвыніковыя… Празь нейкія пару тыдняў я паеду ў Тыльзыт, каб пераканацца, ці насамрэч зварот канфіскату немагчымы[51].

У выніку тых намаганьняў прускія ўлады згадзіліся вярнуць канфіскаваныя кнігі, пра што Сулькевіч з палёгкай далажыў у ліпені таго ж году[52]. З таго часу невялічкія пачкі зь “Дзядзькам Антонам” пастунова перасылаліся празь мяжу, што працягвалася, напэўна, пару гадоў. Паводле справаздачы Польскай сацыялістычнай партыі, яшчэ ў 1895 годзе праз пераходны пункт каля Таўрогаў (Taurόg) ля прускай мяжы былі перапраўленыя 332 асобнікі нейкіх беларускіх выданьняў[53]. Відавочна, гэта быў “Дзядзька Антон”. Паводле згодных міжсобку ацэнак беларускіх дасьледнікаў, гэтая брашура ў канцы XIX ст. адыграла істотную ролю ў распаўсюджваньні рэвалюцыйных ідэяў у Беларусі. Хутка новыя патрэбы ў гэтай галіне паўплывалі на выданьне чарговай, чацьвертай яе рэдакцыі ў 1902 годзе ў Лёндане, у 1904 годзе — у Кракаве (у выглядзе адозвы “Царская гаспадарка”) і ў 1907 годзе — у Пецярбургу. У суме выйшла прынамсі шэсьць беларускіх варыянтаў “Ojca Szymona”, што ў тыя часы было беспрэцэдэнтнаю зьяваю.

Дасьледаваньні абставінаў выданьня “Дзядзькі Антона” выяўляюць першыя яшчэ нясьмелыя пачынаньні групы энтузіястаў, якія сьведчылі пра борздае ўзьнікненьне і разьвіцьцё беларускага нацыянальнага руху. Сярод іх заўважную ролю адыграў Чар-

---

[47] Сулькевіч Аляксандар (1867—1916) — дзяяч польскага сацыялістычнага руху, адзін зь лідэраў ППС. — *А.П.*

[48] Życiorys Aleksandra Sulkiewicza // Kronika Ruchu Rewolucyjnego w Polsce. 1937. № 3. S. 145. — *Ю.Т.*

Гл. таксама нэкралёг А. Луцкевіча “Аляксандар Сулькевіч (Пасьмертны ўспамін)”, падпісаны псэўданімам “Грамадзянін” // Гоман. 1916. 17 кастрычніка. — *А.С.*

[49] Centralne Archiwum KC PZPR, sygn. 305/VII/60, k. 4: list Sulkiewicza z 14.06.1892. — *Ю.Т.*

Выразам “зялёная мяжа” на прафэсійным жаргоне кантрабандыстаў абазначаліся палі і лясы ўздоўж дзяржаўнай мяжы, празь якія ажыцьцяўлялася незаконная перапраўка тавару. — *А.П.*

[50] “Сьцізорык”, Маліноўскі — гэта былі псэўданімы Абрамовіча. — *Ю.Т.*

[51] Centralne Archiwum KC PZPR, sygn. 305/VII/60, k. 2: list Sulkiewicza z 02.06.1892.

[52] Тамсама. K. 12: list Sulkiewicza z 22.07.1896.

[53] Materiały do historii PPS i ruchu rewolucyjnego w zaborze rosyjskim 1893—1897. Warszawa, 1907. S. 173.

ноцкі, пра якога ў беларускай літаратуры мы знаходзім толькі дробныя і абрывачныя зьвесткі. Варта на заканчэньне прысьвяціць яму некалькі слоў. Напалеон Казімер Чарноцкі нарадзіўся 13 ліпеня 1866 году ў сямейным маёнтку Нач Слуцкага павету (адкуль паходзіў таксама Мар'ян Фальскі). Узгадоўваўся ён у атмасфэры сьветлага і дэмакратычнага дому. Атрымаўшы ў 1894 годзе ў Маскве дыплём пра вышэйшую мэдычную адукацыю, працаваў лекарам у Беларусі — у Міры, Іўі, Нясьвіжы, Наваградку й Сьвіслачы. У 1908—1912 гадох жыў у Канадзе, а па вяртаньні — у Варшаве й Вільні. У 1934 годзе кінуў лекарскія заняткі і заснаваў плянтацыю лячэльных расьлінаў у Лябёдцы каля Ліды. Тут і памёр 14 лютага 1937 году[54].

Пасьля выданьня ў 1892 годзе "Дзядзькі Антона" Чарноцкі, наколькі вядома, цягам некалькіх гадоў не займаўся беларускім пісьменствам. Да гэтай дзейнасьці вярнуўся на пачатку XX ст. пад уплывам актывізацыі беларускага нацыянальнага руху. У 1906—1908 г. ён працуе над тэатральным рэпэртуарам, перарабляючы ці перакладаючы на беларускую мову камэдыі Чэхава "Сватаньне" і Крапіўніцкага[55] "Па рэвізіі" і "Пашыліся ў дурні", выдадзеныя ў 1910—1911 годзе ў Пецярбургу суполкаю "Загляне сонца і ў наша аконца"[56]. Адначасова ён апрацаваў дзьве брашуры грамадзка–эканамічнага зьместу: "Як будзе зь зямлёю" і "Што дзяліць, а што не, каб супакой быў на сьвеце", першая зь якіх зьявілася ў 1907 годзе ў Пецярбургу[57]. Ён пакінуў сур'ёзную публіцыстычную спадчыну ў выданьнях "Наша Ніва" (дзе, між іншага, пісаў пад псэўданімам Апанас К.), "Минский курьер"[58], "Głos" (Варшава)[59], "Źródła mocy" (Вільня)[60] і іншых.

Творчасьць Чарноцкага ахоплівала шырокі дыяпазон грамадзка–культурных праблемаў — ён быў папулярызатарам і крытыкам маладой беларускай літаратуры, ён клапаціўся пра грамадзкае разьвіцьцё і асьвету для беларускага народу на роднай мове, яго цікавіў народны тэатар і фальклёр. Гэтая творчасьць заслугоўвае сур'ёзнага дасьледаваньня й ацэнкі.

*Пераклад зроблены паводле:* Slavia Orientalis. 1983. № 3.

---

54 Пра Чарноцкага пісалі: Адам Прухнік у "Polskim Słowniku Biograficznym" (T. IV), Аляксандар Сьнежка ў "Ziemi Lidzkiej", 1937, № 8. Вялікі біяграфічны матэрыял быў апублікаваны ў "Księdzie Pamiątkowej PPS". Warszawa, 1923. S. 48—61.

55 Крапіўніцкі Марка Лукіч (1841—1910) — украінскі актор камічных і драматычных роляў, драматычны пісьменьнік. — *А.П.*

56 Некаторыя літаратуразнаўцы (П. Ахрыменка, Т. Кабржыцкая, В. Рагойша) прытрымліваюцца думкі, што пераклад Крапіўніцкага "Па рэвізіі" быў зроблены Чарноцкім ужо ў 1902 годзе. Гэта непаразуменьне. Аўтарам таго перакладу быў Юры Ўласаў. Пар.: Аляхновіч Ф. Беларускі тэатр. Вільня, 1924. С. 85. — *Ю.Т.*

Пішучы пра пастаноўку п'есы "Па рэвізіі" ўвесну 1906 г., А. Бурбіс у сваіх успамінах "Колькі слоў аб беларускім тэатры і хоры" перакладчыкам гэтага твору назваў Н. Чарноцкага. Ня выключана, што п'есу перакладаў і Ю. Уласаў. — *А.С.*

57 Другую брашуру "Што дзяліць…" называе Прухнік у сваёй біяграфіі Чарноцкага, не падаючы месца і даты яе выданьня. Гэтую брашуру я не разглядаю. — *Ю.Т.*

58 "Минский курьер" — грамадзка–палітычная і літаратурная газэта, якая выходзіла ў Менску з 27 студзеня па 8 кастрычніка. — *А.П.*

59 "Głos" ("Голас") — грамадзка–палітычны і культурны штотыднёвік, які выходзіў у Варшаве з 1886 г. Спачатку меў народніцкае аблічча, пасьля зрушыўся на больш правыя пазыцыі. — *А.П.*

60 "Źródła mocy" ("Крыніцы сілы") — грамадзка–палітычны і культурны часопіс, які выдаваўся ў Вільні ў 1927—1931 г. — *А.П.*

# Абставіны публікацыі і аўтарства першага беларускага лемантара

У 1906 годзе ў Пецярбурга суполкай "Загляне сонца і ў наша аконца" быў выдадзены ананімны "Беларускі лемантар, або Першая навука чытаньня"*, што сьведчыла пра імкненьні выдаўцоў распачаць у Беларусі народную асьвету на беларускай мове. Выхад лемантара на цэлае дзесяцігодзьдзе апярэдзіў узьнікненьне першых беларускіх публічных школаў, таму яго выкарыстаньне абмяжоўвалася хатнім ужыткам, а таксама падпольнымі беларускімі школкамі, што паўставалі пасьля рэвалюцыі 1905 году. Ён быў выдадзены як лацінкай, так і кірыліцай, з чаго вынікала, што прызначаўся лемантар як для каталікоў, гэтак і для праваслаўных. У той жа час гэты падручнік упершыню ў гісторыі быў спробай акрэсьліць асноўныя прынцыпы правапісу сучаснай беларускай мовы, прапаноўваў некаторыя беларускія лінгвістычныя тэрміны, а таксама спэцыфічную для гэтай мовы графіку. І таму "Беларускі лемантар" служыў для пісьменьнікаў і выдаўцоў хоць і не абавязковым, але адзіным да першай сусьветнай вайны свайго роду практычным дапаможнікам па мове[1]. Пры такім стане рэчаў значэньне падручніка можна разглядаць ня толькі ў грамадзкай і пэдагагічнай плашчыні, але таксама і ў кантэксьце разьвіцьця беларускага мовазнаўства[2].

У абедзьвюх гэтых галінах на пачатку XX ст. яшчэ практычна не існавала ніякіх узораў і дазнаньняў, што было абумоўлена галоўным чынам тагачасным грамадзкім статусам беларускай мовы як мовы мужыцкай, з абмежаваным пэўнай мясцовасьцю выкарыстаньнем. Таму распачатыя ў XIX ст. мовазнаўчыя студыі беларускай мовы Івана Насовіча і Яўхіма Карскага[3], нягледзячы на іх важнасьць з навуковага пункту гледжаньня, беспасярэдне не спрычыніліся да яе ўкараненьня ў практычнай пэдагагічнай і літаратурнай дзейнасьці. Звычайна гэта тлумачыцца абмежавальнай палітыкай царызму і афіцыйным трактаваньнем *беларускай мовы* як дыялекту расейскай мовы. Аднак трэба заўважыць, што нават найвыдатнейшыя творцы беларускай літаратуры XIX ст. так і ня здолелі, у адрозьненьне ад літоўцаў, выдаць падручнік для практычнага навучаньня беларускай мове[4]. Гэтую сытуацыю таксама не зьмяняе факт выданьня

---

* У арыгінале "Беларуски лемэнтар або першая навука чытаньня". — *Рэд.*

[1] Чакаючы зьяўленьня падручніка, беларуская паэтка Алёйзія Пашкевіч (Цётка) пісала 28.06.1906 г. зь Львова Браніславу Эпімах–Шыпілу ў Пецярбург: "Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанэтыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народу, дык ня ведаю, як чаго трымацца" // Арабей Л. Стану песней. Москва, 1982. С. 114. — *Ю.Т.*

Гл. таксама: Цётка. Выбраныя творы. Мінск, 2001. С. 215. — *А.С.*

[2] Семашкевіч Р.М. Беларускі літаратурна–грамадскі рух у Пецярбурзе. Мінск, 1971. С. 98—102; а таксама: Германовіч І.К. Карусь Каганец як мовазнавец // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна. Сер. IV. 1974. № 3. С. 33.

[3] Гэтымі двума навукоўцамі ў др. п. XIX ст. быў выдадзены шэраг беларускіх мовазнаўчых працаў, сярод якіх можна адзначыць перш за ўсё "Словарь белорусского наречия", выдадзены Іванам Насовічам (1788—1877) у 1870 г. і "Обзор звуков и форм белорусской речи" Яўхіма Карскага, выдадзены ў 1885 г. — *А.П.*

[4] Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), які ў 1877—1878 г. наведваў школку, што трымаў Вінцэнт Дунін–Марцінкевіч — піянэр беларускай літаратуры XIX ст., — паведамляе, што вучылі там расейскай, польскай, францускай мовам, розным прадметам, за выняткам гісторыі Беларусі й беларускай мовы. Вучні нават ня ведалі беларускіх твораў Марцінкевіча. Паводле Лявіцкага, Марцінкевіч, хаця й пісаў па–беларуску, не адважыўся "беларускую ідэю прыстасаваць да жыцьця". Гл.: Ядвігін Ш. Выбраныя творы. Мінск, 1976. С. 297—298. У гэтым пляне ня вельмі адрозьніваўся і Францішак Багушэвіч, якога часта называюць праро-

ў 1862 годзе ў Варшаве “Элемэнтажа для добрых дзетак каталікоў”*, бо ў аснове сваёй гэта быў рэлігійны падручнік і, акрамя назвы, меў мала супольнага з падручнікам для навучаньня мове[5]. “Беларускі лемантар” жа ня меў прэцэдэнту ў гісторыі, і таму мэтазгодна дасьледаваць яго паходжаньне на падставе нявыкарыстаных дагэтуль польскіх крыніц.

Дагэтуль таксама засталося нявысьветленым пытаньне ананімнасьці гэтага асаблівага падручніка, хаця яно даўно прыцягвала ўвагу беларускіх дасьледчыкаў. У дваццатых гадох Мікола Касьпяровіч на падставе дасьледаваньня рукапісаў Казімера Кастравіцкага (вядомага ў літаратуры пад псэўданімам Карусь Каганец) і яго ліставаньня з старшынём выдавецкай суполкі “Загляне сонца і ў наша аконца” Вацлавам Іваноўскім выказаў думку, што аўтарам лемантара быў згаданы Кастравіцкі[6]. Гэтага погляду таксама прытрымліваюцца сучасныя дасьледчыкі[7], якія, аднак, не тлумачаць, чаму прозьвішча ці то псэўданім Кастравіцкага, калі ён быў аўтарам лемантара, не было названае выдаўцамі. Пытаньне падаецца істотным, калі ўлічыць, што ўжо ў 1907 г. неўзабаве пасьля выхаду лемантара гэтая суполка выдала “Гутаркі аб небе і зямлі”, называючы прозьвішча Кастравіцкага як аднаго зь перакладчыкаў гэтай кнігі. Да таго ж у выпадку зь лемантаром ня трэба было асьцерагацца выкрыцьця Кастравіцкага — актыўнага дзяяча Беларускай сацыялістычнай грамады ў 1904—1905 гадох, — тым больш, што на час выданьня згаданай публікацыі ён ужо быў вызвалены з турмы, у якую трапіў за сваю рэвалюцыйную дзейнасьць[8]. Напасьледак, выданьне ананімных кніг не было характэрна для пецярбурскай суполкі, пра гэта сьведчыць той факт, што зь некалькіх дзясяткаў выдадзеных кніг толькі на адным лемантары не было пазначана прозьвішча ці псэўданім аўтара.

Задума стварэньня першых беларускіх школьных падручнікаў зьявілася толькі на пачатку XX ст. у асяродзьдзі дзяячоў Беларускай рэвалюцыйнай партыі, створанай студэнтам Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту Вацлавам Іваноўскім. Пра гэта сьведчыць выдадзеная восеньню 1902 г. адозва партыі “Да інтэлігенцыі”, у якой упершыню была сфармулявана амбітная праграма пачынаньня беларускай народнай асьветы і разьвіцьця выдавецкай дзейнасьці[9]. Першым пунктам гэтай праграмы значылася стварэньне працаў над удасканаленьнем беларускай мовы і выданьнем граматыкі, для распрацоўкі якой плянавалася зьвярнуцца да спэцыялістаў. Не вядома, ці зьвярталіся і да каго зьвярталіся тады з гэтай нагоды дзяячы БРП, бо фактычна ніхто зь вядомых мовазнаўцаў таго часу распрацоўкай граматыкі не заняўся. У рэшце рэшт, толькі ў 1918 годзе гэтую справу выканаў Браніслаў Тарашкевіч, заахвочаны і прысьпешаны Іваноўскім[10].

кам беларускага адраджэньня. І хаця ў прадмове да свайго зборніка “Дудка беларуская” (Кракаў, 1891) ён заклікаў: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!” — у тым жа 1891 г. практычна займаўся арганізацыяй нелегальных польскіх школак для простага люду ў Вільні. Гл.: Krzywicki L. Na marginesie starej fotografii // Niepodległość. T. III. 1933. Zesz. 1(5). S. 74.

* У арыгінале “Elementarz dla dobrych dzietok katalikou”. Тут і далей ужываецца мадэрнізаваная назва выданьня. — *Рэд.*

[5] Вядома, мы не бяром пад увагу лемантары і граматыкі старацаркоўнаславянскай мовы, што выдаваліся на Беларусі ў XVI—XVIII стст.

[6] Касьпяровіч М. Карусь Каганец (да 10–й гадавіны сьмерці) // Маладняк. Менск, 1928. № 10. С. 102.

[7] Германовіч І.К. Тамсама. С. 33; Александровіч С. (прадмова да) Каганец Карусь. Творы. Мінск, 1979. С. 17. Гэтай думкі прытрымліваецца таксама А. Макмілін (A History of Byelorussian Literature. Giessen, 1977. P. 136). Аднак Лідзія Арабей сьцьвярджае, што аўтарам лемантара была Алёйзія Пашкевіч (Цётка). Пар.: Арабей Л. Стану песней. Москва, 1982. С. 114.

[8] Каганец Карусь. Творы. Мінск, 1979. С. 261.

[9] Przedświt. Лёндан, 1903. № 2. С. 53—54. Тамсама поўны тэкст адозвы “Да інтэлігенцыі”. — *Ю.Т.*

[10] Гл. ліст Янкі Купалы да Тарашкевіча за 04.08.1913 г., апублікаваны В. Рагойшам у зборніку “Нашы песьняры”. Мінск, 1972. С. 254. — *Ю.Т.*

Гл.: Янка Купала. Поўны збор твораў. Т. 9. Кн. 1. С. 239. — *А.С.*

А лемантар мог бы быць распрацаваны ўласнымі сіламі і, што найбольш важна, у адносна кароткі час.

Пільная патрэба стварыць гэты падручнік была выклікана ў значнай ступені патрэбай распрацоўкі адзіных прынцыпаў беларускага правапісу ў сувязі з тым, што плянавалася распачаць пастаянную выдавецкую дзейнасьць. Найменшыя цяжкасьці з гэтага пункту гледжаньня ўзьнікалі пры адаптацыі для патрэбаў беларускай мовы лацінкі, пры ўжываньні якой абапіраліся на нормы польскага правапісу. У выкарыстаньні ж кірыліцы ўжо на мяжы XIX—XX стст. выявіліся інавацыйныя тэндэнцыі, якія мелі на мэце прыстасаваць тагачасны расейскі алфавіт да патрабаваньняў беларускай фанэтыкі. Першы крок у гэтым кірунку быў зроблены ў канцы XIX ст. Аляксандрам Ельскім, які ў сваіх брашурах, выдадзеных кірыліцай, выкарыстаў новы знак “ Г̂” як адпаведнік неіснуючай у расейскім алфавіце літары “h”, а таксама спалучэньне “іо” (віоска) замест ужыванай дагэтуль “ё” (вёска)[11]. Далейшыя зьмены ў гэтым кірунку былі зробленыя ў 1902—1904 г. дзякуючы выдаўцам Польскай сацыялістычнай партыі, якія ў друкаваных у Лёндане агітацыйных брашурах (“Гутарка аб тым, куды мужыцкие грошы ідуць” і інш.)[12], а таксама выдадзеных у краіне адозвах (“Да браці мужыкоў”(у арыгінале “До браці мужыкоў”. — *Рэд.*), “Таварышы”, “Браця мужыкі”) адмовіліся ад выкарыстаньня цьвёрдага знаку “ъ” і “ѣ”, замяняючы апошні літарай “е”. Яны таксама выкарысталі прапанаванае Ельскім спалучэньне “іо”, аднак не прынялі ягонай ідэі адносна знаку “ Г̂”.

Беларускія выдаўцы ў Пецярбургу спачатку стрымана паставіліся да новых прынцыпаў артаграфіі, выкарыстаных у публікацыях Ельскага і ППС. Пра гэта сьведчыць пасьлядоўнае ўжываньне правілаў традыцыйнага правапісу ў іх першых публікацыях. Так, у выдадзенай у сьнежні 1902 г. газэце “Свабода” адзіным новаўвядзеньнем была літара “ Г̂”[13]. Але ўжо ў наступнай публікацыі — зборніку вершаў Янкі Лучыны “Вязанка” (1903 г.) — гэтай літары няма, аднак выкарыстоўваецца “е” на месцы ранейшага “ѣ”, што не рабіла–такі прынцыповых зьмен. Аднак разам з актывізацыяй выдавецкай дзейнасьці расла і колькасьць прыхільнікаў рэформы правапісу. Тэндэнцыі гэтых зьменаў выразна выявіліся ў канцы 1903 — пачатку 1904 гадоў, калі былі падрыхтаваныя да друку кірыліцай чарговыя пункты выдавецкай праграмы — “Велікодная пісанка”, “Казкі”, “Песьні” (у арыгінале “Пес’ні”. — *Рэд.*) і “Царская гаспадарка”. У апрацоўцы гэтых тэкстаў удзельнічалі галоўным чынам Вацлаў Іваноўскі, Казімер Кастравіцкі і Мар’ян Фальскі, кожны зь якіх выкарыстоўваў уласныя падыходы і канцэпцыі беларускага правапісу. Таму ў першыя гады XX ст. паўстала шмат розначытаньняў (гл. табл. 1), уніфікацыя якіх зрабілася істотнай праблемай, якая абумовіла далейшае разьвіцьцё беларускага пісьменства.

Гэткай жа важнай праблемай, якая паўстала перад выдаўцамі, была праблема алфавіту, бо і тут бракавала вартых перайманьня ўзораў. На працягу XIX ст. сфармавалася практыка друкаваньня беларускіх кніг і іншых выданьняў альтэрнатыўна — лацінкай або кірыліцай, якая адлюстроўвала ня толькі спэцыфіку рэлігійнай сытуацыі ў Беларусі,

[11] Ельскі А. Слова аб праклятай гарэлцы. Пецярбург, 1900.

[12] Дакладней кажучы, брашуру выпусьціла ППС у Літве — філіяльная арганізацыя ППС, якая ў 1906 г. аб’ядналася зь Літоўскай сацыял–дэмакратычнай партыяй. — *А.С.*

[13] Поўны тэкст “Свабоды” дагэтуль ня выяўлены, аднак вядома, што клішэ першай старонкі гэтага выданьня ўручную прыгатаваў Рамуальд Мілер, а астатніх — пецярбурскі гімназіст Вінцэнт Валейка. Пар.: Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, 1934. С. 74. Выяўленай мной у Цэнтральным архіве ЦК ПАРП часткі тэксту “Свабоды” зь вершам “Добрыя весьці” (syg. 305//III/55 pt. 12) даволі, каб сьцьвердзіць асаблівасьці правапісу. Аб тым, што гэта арыгінальны тэкст, сьведчыць ідэнтычны характар пісьма зь іншымі рукапісамі Вінцэнта Валейкі, доступ да якіх увесну 1984 г. мне забясьпечыў яго сын, Марк Валейка, за што ў гэтым месцы я складаю яму падзяку.

**Табліца 1.** Асноўныя разьбежнасьці ў адным з варыянтаў беларускага алфавіту — кірыліцы — у 1900—1906 г.

| **Назва публікацыі і час выданьня** | **Цьвёрды знак** | **Мяккі знак** | **ѣ** | **jo** | **h** |
|---|---|---|---|---|---|
| Ельскі А. Слова аб праклятай гарэлцы. Пецярбург, 1900 | ъ | ь | ѣ | іо | г̑ |
| Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць. Лёндан, кастрычнік 1902 | — | ь | — | іо | г |
| “Свабода”. Пецярбург (? — *Рэд.*), сьнежань 1902 | ъ | ь | ѣ | е | г̑ |
| “Вязанка”. Пецярбург, вясна 1903 | ъ | ь | ё | ё | г |
| Песьні. Кракаў, красавік 1904 | — | ь,’ | ѣ | іо | г |
| Царская гаспадарка. Кракаў, красавік 1904 | ъ[a] | ь,’ | ѣ, е | іо | г |
| Велікодная пісанка. Пецярбург, красавік 1904 | — | ь | ѣ, е | іо | г |
| Казкі. Пецярбург, лета 1904 | ъ | ь,’ | — | іо | г |
| Беларускі лемантар. Пецярбург, лета 1906 | —[b] | ь | — | іо | г |

[a] спарадычна, непасьлядоўна
[b] спарадычна; магчыма, памылка карэктуры

але і культурныя і нават палітычныя матывацыі паасобных аўтараў[14]. Існаваньне двух алфавітаў для адной мовы было ненармальнай зьявай, і толькі цягам далейшага грамадзкага разьвіцьця Беларусі пытаньне было вырашана на карысьць кірыліцы. Аднак жа ў першыя гады XX ст. праблема алфавіту — важная для разьвіцьця культуры і выдавецкай дзейнасьці — саступала перад спробамі піянэраў беларускага адраджэньня нэўтралізаваць адмоўныя наступствы рэлігійнай разьяднанасьці грамадзтва шляхам абуджэньня агульнанацыянальнай сьвядомасьці. Аргумэнтацыя выдаўцоў лемантара ў гэтай складанай справе гучала наступным чынам:

> Ведаем мы ўсе, што меж нами палешуками, беларусами, ци як мы сябе яшчэ называем — тутэйшымы йосьць каталики и праваслаўные, каталики больш да лацинских литэр — што йих несправядлива “польскими” называюць, прывыкли; праваслаўные — да славянских — ци як кажуць да “руских” прывыкли. Гэтые руские — гэтаж нашы спрадвечные беларуские, а лацинскими цяпер увесь сьвет пишэ. Ци раз у нас сварка бывае: зыдуцца каталик з праваслаўным и сваруцца “ах ты, кажэ, паляк, — а ты маскаль”. И абодва ня ведама што кажуць: ани той паляк, ани гэты маскаль, абодва яны хоць рознае веры, а народу аднаго, бо абодва вырасли на зямельцы тутэйшай палескай — беларускай и першае слова ў мови нашай бацькаўскай ад бацькоў пачули, а сваруцца тольки сабе на крыўду и на сорам, людзям на сьмех. Вось і знарок выдаем лемэнтар дваякими знаками, выбирай, што спанараўна, каб усяки пазнаў, што ци такие, ци сякие знаки, а зыки, склады и словы тыеж, мова — таяж и людзи што мовай адной гаворуць — браты родные[15].

[14] Багушэвіч быў перакананым прыхільнікам лацінкі, выкарыстаньне якой, верагодна, лічыў адным з сродкаў супрацьстаяньня русіфікацыйнай палітыцы царызму. Гэтым алфавітам ён выдаў усе свае кніжкі, а ня выдадзеную пры жыцьці кніжку “Скрыпачка беларуская” даручыў падрыхтаваць да друку жонцы, толькі з той умовай, што зборнік будзе выдадзены лацінкай. Гл.: Семашкевіч Р.М. Тамсама, с. 99. Зь іншага боку, ППС выдавала беларускія брашуры і адозвы выключна кірыліцай з той прычыны, што яна імкнулася ўплываць на беларускае праваслаўнае насельніцтва. Да беларусаў–каталікоў ППС адрасавала агітацыйную літаратуру на польскай мове.
[15] Беларускі лемантар, або Першая навука чытаньня. Пецярбург, 1906. С. 4—5 (лацінка) і с. 6—7 (кірыліца).

Рашэньне выдаць лемантар двума алфавітамі ўлічвала канкрэтныя ўмовы грамадзка–культурнага разьвіцьця Беларусі і, у адрозьненьне ад практыкі XIX ст., не надавала перавагі і не перадвызначала будучыні аднаго з двух алфавітаў. Рашэньне гэтае, праўда, падвойвала выдаткі на друк небагатай выдавецкай суполкі, але яны не былі занадта высокія ў параўнаньні з спадзяваным вынікам, г.зн. разьвіцьцём нацыянальнай сьвядомасьці і інтэграцыяй беларускага грамадзтва на падставе агульнанацыянальнай культуры. Таму можна пагадзіцца зь Семашкевічам, што на тагачасным гістарычным этапе гэта было адзіна правільнае рашэньне[16].

З двух заплянаваных варыянтаў лемантара першым выйшаў на лацінцы. Пра гэта сьведчыць зьмешчанае ў ім указаньне адносна спосабу, якім чытачы могуць выказаць крытычныя заўвагі пра зьмест кнігі: “Prosim nie lanicca, a usio, szto sustreniecie blahoha, zapisać i padać tudy, skul hety lementar dastali”[17].Такім чынам, гэтыя заўвагі кнігараспаўсюднікі мусілі перадаць невядомаму выдаўцу, а не выдавецкай суполцы “Загляне сонца і ў наша аконца”, якая была зарэгістравана ў траўні 1906 г. і ў часе распрацоўкі гэтага варыянту кнігі пра яе, напэўна, яшчэ нават і ня думалі[18]. На тое, што лацінкавы варыянт узьнік раней, паказвае таксама іншая акалічнасьць. Так, у часе працы над лемантаром Алёйзія Пашкевіч (Цётка) працавала над чарговым падручнікам, які быў выдадзены ў 1906 г. у Пецярбургу пад назвай “Першае чытаньне для дзетак беларусаў”. Пра гэта ведаў аўтар лацінкавага варыянту, аднак ён яшчэ ня ведаў дакладнай назвы рыхтаванай да выданьня чытанкі, у сувязі з чым акрэсьліў яе толькі прыблізна — “Першая ксёнжка да чытаньня”[19].

Працай над лацінкавым варыянтам лемантара заняўся восеньню 1904 г. Іваноўскі, калі пасьля сканчэньня навучаньня праходзіў пасьлядыплёмную практыку на цукровым заводзе ў Баравічках пад Плоцкам. У той час ён быў у блізкім кантакце з сваім пецярбурскім прыяцелем, жыхаром Плоцку Люцыянам Альтбэргам, сястра якога, Марыя Арнольдзіха, расказала мне 17 траўня 1979 г. наступнае:

> Люцыян часта бываў у Іваноўскага ў Баравічках і бачыў, як ён карпеў над складаньнем беларускага лемантара. Брат гаварыў пра гэта часта і з пэўнай ironiяй, маўляў, гэта дзяцінства, фантазіі: “Такі паважаны чалавек займаўся беларускім лемантаром! Ды гэта ж дыялект, а ня мова...” Ах, калі б брат быў разумнейшым, ён бы ведаў, што нават адзін чалавек у гэтай галіне мог зрабіць пераварот. Бо з гэтага лемантара вырасла цяпер уся беларуская літаратура.

Гэтае паведамленьне пацьвярджае ліст Іваноўскага да Ельскага ад 24 лютага 1905 г., дзе ён інфармаваў, што праца над лемантаром блізкая да завяршэньня (“будзе гатоў да друку за месяц”). Таму можна дапусьціць, што лацінкавы варыянт лемантара Іваноўскі скончыў сама позна вясной 1905 г.

Цытаваны ліст Іваноўскага зьмяшчае інфармацыю, што прыкладам для стварэньня гэтага падручніка быў польскі лемантар Казімежа Промыка (псэўданім Конрада Прушынскага)[20]. Гэты лемантар у сувязі з забаронай навучаньня польскай мове ў школах

---

[16] Семашкевіч Р.М., тамсама, с. 99. Гэтая дарагая, але эфэктыўная практыка паралельнага друку лацінкай і кірыліцай пазьней выкарыстоўвалася рэдакцыяй беларускіх газэт “Наша Доля” і “Наша Ніва” (да канца 1912 г.). (Лацінкаю “Нашу Ніву” выдавалі да 18(31) кастрычніка 1912 г. — *А.С.*) Двума алфавітамі да першай сусьветнай вайны быў выдадзены шэраг беларускіх кніг. — *Ю.Т.*

[17] Biełaruski lementar abo pierszaja nawuka czytańnia. Pieciarburh, 1906. S. 23.

[18] Пар. лісты В. Іваноўскага да А. Ельскага за 24 лютага, 31 красавіка і 15 траўня. Archiwum Glównie Akt Dawnych, Zespół Prozorów i Jelskich, syg. $140_2$.

[19] Biełaruski lementar... S. 23. У выдадзеным кірыліцай лемантары прысутнічаюць адрозныя фармулёўкі. У ім чытачоў просяць скіроўваць заўвагі беспасярэдне да выдавецкай суполкі і правільна называецца назва чытанкі Цёткі. Пар.: Беларускі лемантар. С. 30. Гэтыя разьбежнасьці былі яўным недаглядам карэктараў выдавецтва.

[20] Promyk K. Elementarz na którym nauczysz czytać w 5 albo 8 tygodni. Wydanie 37. Warszawa, 1903.

Расейскай імпэрыі прызначаўся ў прынцыпе для хатняга ўжытку і найперш служыў навучаньню чытаць. З гэтага пункту гледжаньня ён быў больш адпаведны беларускім умовам, чым расейскія лемантары, што ўжываліся ў народных школах. Як вынікае з аналізу зьместу абодвух лемантароў, гэткае перайманьне сягала вельмі далёка. Так, з падручніка Промыка Іваноўскі пераняў мэтодыку навучаньня ды ў сутнасьці канцэпцыю ўкладаньня матэрыялу, г.зн. мэтадычныя ўказаньні для таго, хто навучае, як пазнаваць літары і склады, уступныя практыкаваньні, алфавіт, тлумачэньне галосных і зычных, напісаньне імёнаў уласных і лічбаў і, урэшце, назвы знакаў прыпынку. Была адаптавана нават частка ілюстрацыйнага матэрыялу. Некаторыя элемэнты гэтага падручніка былі перакладзены на беларускую мову: дзе–нідзе даслоўна, дзе–нідзе зь неістотнымі мадыфікацыямі, што ілюструецца наступнымі прыкладамі:

| “Elementarz” Промыка | Беларускі лемантар, варыянт лацінкай |
|---|---|
| s. 3—4: “Przeczytaj, bracie, jeżeli zechcesz kogo uczyć czytać, to ucz koniecznie tak, jak ci poradzę i jak w tym elementarzu pokazano. Dotąd jeszcze uczą nieraz tak, że potrzeba roku albo dwóch lat, żeby czytać nauczyć; a tymczasem jest daleko lepszy nowy sposób, że można nauczyć w 8, a nawet w 5 tygodni... Nie zaczynaj od razu uczyć całego abecadła, ale pokaż tylko kilka liter, które są na początku w tym elementarzu, i ucz od początku aż do końca tak, jak w tymże elementarzu napisano. Zanim zaczniesz uczyć w nowem miejscu, to wpierw przeczytaj radę, która jest wydrukowana dla ciebie drobnemi literami i ucz zapełnie tak, jak tam powiedziano”. | s. 3: “Praczytajcie! Kali budziecie wuczyć kaho czytać na hetym lemantaru, wuczycie tak, jak tut radżu i jak u lemantaru napisana. Dauniej wuczyli czytać hod abo i dwa, a ciapier i u dwa miesiacy nawuczysz. Nie pakazuj zaraz usich znakau, a tak, jak tut napisana: literu za literaj i adrazu wuczy czytać cały skład i słowa, skład pa składzi... Pakul paczniesz wuczyć czytać u nowym miejscy, praczytaj radu, szto drobnymi literami napisana”. |
| s. 21: “Te litery, czyli głoski, co się ich uczyłeś na samym początku, na pierwszej stronicy, można wymawiać głośno, bez innych znaków. Dlatego nazywają się onie samogłoski... A tych znaków, co się ich uczyłeś później, nie można czytać samych, lecz tylko razem z tamtemi samogłoskami, to jest spólnie z samogłoskami, dlatego nazywają się one spółgłoski”. | s. 20: “Zyki bywajuć dwajakije: adny, jak na prykład haworuczy a, o, e — nazywajucca samohałoskami, a to prosta hałosnymi, bo jany haworacca samy saboju biaz pomoczy druhich zykou, a tyje, katorych biaz pomoczy hałosnych trudna wyhawaryć — nazywajucca sahałosnymi”. |
| s. 22: “Litera większa kładzie się zawsze na początku, jak tylko co nowego zaczynają pisać. Litera większa kładzie się też zawsze na początku każdego imienia i nazwiska…” | s. 21: “Wialiki znak piszecca z paczatku, jak paczynajem pisać szto nowaje. Wialiki znak piszecca na paczatku imieńnia i prozwiska…” |

Цікавая рыса згаданага лемантара ў мовазнаўчым аспэкце ў тым, што ў ім упершыню выкарыстоўваецца беларуская лінгвістычная тэрміналёгія. Гэта былі агульныя тэрміны, тыповыя, напэўна, для ўсіх эўрапейскіх моў, аднак іх ахоп, які супадае з тэрмінамі, ужыванымі ў падручніку Промыка, сьведчыць пра тое, што апошні выкарыстоўваўся як аснова для апрацоўкі беларускіх паняткаў. Трэба заўважыць, што некаторыя зь іх (‘знакі застановочные’, ‘працяжка’) больш дакладна адлюстроўвалі значэньне, чым тэрміны, прапанаваныя Промыкам (‘znaki pisarskie’, ‘kreska’, замененыя цяпер на ‘znaki

interpunkcyjne', 'pauza' ['знакі прыпынку', 'працяжнік']). Новаўвядзеньнем, якое прапаноўваў лемантар у графіцы, было выкарыстаньне знакаў "č", "š", "ž" замест традыцыйных "cz", "sz", "ż", што, напэўна, мела на мэце адрозьніць беларускую лацінку ад польскага алфавіту. Створаныя ў канцы 1904 — на пачатку 1905 г. першыя беларускія мовазнаўчыя тэрміны пасьля былі дапрацаваныя. Некаторыя зь іх былі моцна зьмененыя (напр., 'коска' заместа 'закавыка'), але большасьць зь іх зрабіліся трывалым набыткам беларускага мовазнаўства і былі прыняты ў такім жа гучаньні ('склад', 'галосны', 'клічнік' і інш.) ці толькі з фанэтычнымі і марфалягічнымі зьменамі, як, напрыклад, 'пытанник' — 'пытальнік', 'працяжка' — 'працяжнік' і інш. (гл. табліцу 2).

**Табліца 2.** Параўнаньне асобных мовазнаўчых тэрмінаў

| *"Elementarz" Промыка* | *"Беларускі лемантар"* | Сучасная беларуская тэрміналёгія |
|---|---|---|
| litera | литэра | літара |
| sylaba | склад | склад |
| — | ударэньне | націск |
| głoska | зыки, галаскú | гукі |
| samogłoska | самагалосны, галосны | галосны |
| spółgłoska | сагалосны | зычны |
| znaki pisarskie | знаки застоновочные | знакі прыпынку |
| kropka | кропка | кропка |
| dwukropek | двукропе | двукроп'е |
| przecinek | закавыка | коска |
| średnik | кропка з закавыкай | кропка з коскай |
| wykrzyknik | кличник | клічнік |
| pytajnik | пытанник | пытальнік |
| cudzysłów | чужэслоў | двукосьсе |
| nawias | — | дужкі |
| kreska | працяжка | працяжнік |
| łącznik | злуч | злучнік |
| — | недасказ | шматкроп'е |

Затое больш арыгінальным у беларускім лемантары быў дыдактычны матэрыял. Як трапна заўважыў Семашкевіч, усе ілюстрацыі, словы ці тлумачэньні гукаў абапіраліся на прыклады з жыцьця беларускай вёскі, што мусіла спрыяць лепшаму засваеньню вучнямі зьместу[21]. Гэтым самым мэтам служылі зьмешчаныя ў ім тры кароткія апавяданьні (іх не было ў падручніку Промыка), сярод якіх прынамсі адно — "Дзед і баба" — было пераробкай папулярнага верша Ю.І. Крашэўскага "Żył sobie dziad i baba, bardzo starzy oboje…" ("Нейк жылі дзед і баба, састарэлі абое...", у перакладзе Ул. Мархеля. — *Рэд.*). Можна дакладна сьцьвярджаць, што "Беларускі лемантар" быў створаны ня толькі пад уплывам падручніка Промыка, але і іншых польскіх крыніц. У сувязі з гэтым не падаецца абгрунтаваным меркаваньне, што нібыта прыкладам для стварэньня лемантара быў падручнік К.Д. Ушынскага "Родное слово"[22].

Лацінкавы варыянт лемантара быў асновай для стварэньня другога варыянту, надрукаванага кірыліцай, укладаньне якога Іваноўскі даручыў Казімеру Кастравіцкаму. Сьведчаньнем таму — дыскусія паміж імі адносна мовазнаўчых аспэктаў гэтага пад-

[21] Семашкевіч Р.М. Тамсама, с. 101.
[22] Нарысы па гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мінск, 1986. С. 228.

ручніка, якую прыводзіць Касьпяровіч[23]. Да гэтай працы Кастравіцкі прыступіў сама рана вясной 1905 г., неўзабаве пасьля атрыманьня ад Іваноўскага тэксту лацінкай, а скончыў яе — сама позна ў сярэдзіне сьнежня, бо зь 19 сьнежня 1905 г. да сярэдзіны траўня 1906 г. ён быў у зьняволеньні[24]. Паколькі існаваў плян выдаць два паралельныя варыянты лемантара, задача Кастравіцкага была, несумненна, лягчэйшая, бо палягала ў перапісаньні кірыліцай лацінкавага тэксту і распрацоўцы ілюстрацыяў для абодвух варыянтаў.

Найважнейшая праблема, якую неабходна было вырашыць падчас працы над другім варыянтам, была ў тым, як унікнуць існуючых разыходжаньняў ува ўжываньні беларускай кірыліцы. Аднак цяжка сьцьвярджаць, у якой ступені да гэтага спрычыніўся Кастравіцкі, бо, як вынікае зь ягоных рукапісаў, што захоўваюцца ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Леніна ў Менску[25], ён ня меў наконт гэтага ўстойлівага меркаваньня[26]. Да прыкладу, ён карыстаўся рознымі знакамі зьмякчэньня — апострафам і мяккім знакам (мысл’, болиць), нескладовае “и” выражаў аднолькава як літарай “й”, так і “□” (рай, ма□), а “о” пасьля мяккага зычнага — ці пры дапамозе “ё”, ці “іо”, ці нават “□о” (ён, іон, □он). Затое ў рукапісах Кастравіцкага мы не сустрэнем літары “щ”, якую ён пасьлядоўна замяняў складзеным зь дзьвюх літараў знакам “шч”. Таму не вядома, якой з сваіх канцэпцыяў правапісу ён трымаўся ў прыгатаваным тэксьце лемантара. Натуральна, апошняе слова ў гэтай справе належала выдавецтву, канкрэтней — Іваноўскаму, а зьяўленьне ў надрукаваным тэксьце спалучэньня “йо”(замест “ё” ці “іо”), якога не было ў рукапісах Кастравіцкага, сьведчыла, што ня ўсе ягоныя ідэі былі прынятыя. Затое несумненным вынаходніцтвам Кастравіцкага быў новы знак “шч”, які быў прыняты выдавецтвам і назаўсёды ўвайшоў у беларускі алфавіт.

Не знайшла падтрымкі выдавецтва канцэпцыя Кастравіцкага выкарыстоўваць паўднёва–заходні дыялект як аснову для стварэньня беларускай агульнанароднай мовы. Іваноўскі аддаваў перавагу цэнтральным беларускім гаворкам, таму прыгатаваны Кастравіцкім тэкст быў папраўлены[27]. Але, нягледзячы на намаганьні карэктараў, ня ўсе паўднёва–заходнія дыялектызмы былі выдаленыя з гэтага тэксту, пра што гавораць, сярод іншага, сьляды оканьня (*познаваць, покажы, богатый*). Не ўжываў Кастравіцкі таксама некаторых лексэмаў, якія сустракаліся ў лацінкавым варыянце, папракаў Іваноўскага за ўжываньне палянізмаў і ўвёў у свой тэкст шматлікія словы, якія адрозьніваліся ад прынятых у лацінкавым варыянце з пункту гледжаньня фанэтыкі, марфалёгіі, а часам і сэнсу (гл. табліцу 3). Гэтыя разыходжаньні маюць істотнае значэньне для высьвятленьня аўтарства лемантара, будучы дадатковым довадам, які пацьвярджае, што два варыянты падручніка былі справай не аднаго, а двух аўтараў.

Гэтыя акалічнасьці ўзьнікненьня лемантара тлумачаць прычыну таго, чаму ён выйшаў ананімна. У пэўнай ступені яна вынікае з характару гэтага падручніка, два варыянты якога былі своеасаблівай кампазыцыяй адаптаваных з падручніка Промыка элемэнтаў і арыгінальнага беларускага дыдактычнага матэрыялу. Абедзьве гэтыя складовыя часткі былі істотныя, што рабіла праблемным дакладнае вызначэньне аўтара лемантара. Апрача гэтага, вынаходніцтва формулы, якая б указала на аўтара лемантара, было магчымым толькі ў выпадку з лацінкавым варыянтам. Сытуацыю ўскладнялі абставіны працы над другім варыянтам (кірыліцай), а менавіта зробленыя выдавецтвам зьмены ў

[23] Касьпяровіч М. Тамсама, с. 96—97.

[24] Каганец Карусь. Творы. Мінск, 1979. С. 261.

[25] З 1992 г. Нацыянальная бібліятэка Беларусі. — *А.С.*

[26] Погляды Кастравіцкага адносна гэтага пытаньня выклалі: Касьпяровіч М. Тамсама, с. 96—99 і Германовіч І.К. Тамсама, с. 31—37.

[27] Касьпяровіч М. Тамсама, с. 96—97.

**Табліца 3.** Асобныя разыходжаньні ў двух варыянтах "Беларускага лемантара" (у дужках падаюцца старонкі адпаведнага выданьня)

| Варыянт, выдадзены лацінкай | Варыянт, выдадзены кірыліцай |
|---|---|
| na lementáru (3) | на лемэнтары (5) |
| litéra za litéraju (3) | знак за знакам (5) |
| skład pa składzi (3) | склад за складам (5) |
| dauniéj (3) | раней (5) |
| swáracca (4) | сваруцца (5) |
| abója (5) | абодва (7) |
| zubámi (7) | зубми (9) |
| múchy (7) | мухи (9) |
| ja báczu czarauniká (14) | нихто николи ня бачыў чараўника (18) |
| żółudzi (16) | жалуды (21) |
| użé (16) | ужо (22) |
| siahódnia (17) | сягоньня (23) |
| wot (20) | вось (26) |
| Wílnia (22) | Вильна (27) |
| prózwiska (21) | прозвишча (27) |
| ksiónżka (апошняя старонка без нумарацыі) | книга (апошняя старонка без нумарацыі) |

тэксьце Кастравіцкага. Гэтыя зьмены былі ўнесеныя безь яго ўдзелу і згоды[28], у сувязі з чым гэты варыянт ня мог быць выдадзены пад ягоным прозьвішчам, што для раўнавагі вымагала ананімнасьці таксама і лацінкавага варыянту.

"Беларускі лемантар" трапіў да друкарні К. Пянткоўскага (K. Piątkowskiego) у Пецярбургу яшчэ да афіцыйнай рэгістрацыі выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца". На гэта ўказвае ліст Іваноўскага за 17 красавіка 1906 г., у якім ён паведамляў Ельскаму, што лемантар ужо друкуецца[29]. Гэта сьведчыць пра тое, што падручнік выдаваўся сьпехам, што, пэўна, паўплывала на ўзьнікненьне згаданых карэктарскіх недаглядаў — вельмі карысных для дасьледчыкаў ягонай генэзы. У чарговым лісьце за 1 жніўня 1906 г. Іваноўскі мог нарэшце паведаміць Ельскаму пра зьяўленьне падручніка[30], з чаго вынікае, што кніга выйшла з друку ў ліпені 1906 г. Гэта быў лацінкавы варыянт — першы пункт выдавецкай праграмы гэтай суполкі. Другі варыянт (кірыліцай) быў надрукаваны на некалькі тыдняў пазьней, што было выклікана неабходнасьцю дапрацаваць тэкст Кастравіцкага. Навіну пра выхад гэтага падручніка першай зьмясьціла віленская "Наша Доля" ў нумары 2 за 15 верасьня 1906. "Беларускі лемантар" спаткаў моцную зацікаўленасьць спажыўцоў, пра гэта гаворыць той факт, што падручнік зьнік з публікаваных у прэсе абвестак суполкі нашмат хутчэй, чым выдадзеныя раней беларускія кніжкі ("Вязанка" Янкі Лучыны, "Казкі" і інш.).

Гэтая акалічнасьць была зьвязана з попытам грамадзтва на беларускія школьныя падручнікі, якія ўзьнік ува ўмовах першай рэвалюцыі ў Расеі 1905 г. Характэрную ілюстрацыю тагачасных настрояў дае ліст Ядвігі Ціхінскай з маёнтку Прусан каля Крычава Магілёўскай губэрні да Ельскага ад 3 чэрвеня 1905 г.:

Шаноўны пане! Пара было б сёньня ўзяцца за складаньне беларускага лемантара, калі б вы падумалі аб тым. З той пары, калі можна стала адчыняць прыватныя школы (мы ўжо таксама

[28] Тамсама.

[29] AGAD. Zespół Prozorów i Jelskich, syg. $140_2$.

[30] Тамсама.

> пачынаем будаваць і зьбіраць на гэта грошы), трэба даць падручнікі–лемантары і беларускія кніжкі. Ведаю, што вы пішаце па–беларуску. Мой бацька складае беларуска–польска–расейскі слоўнік, і гэта даказвае, што ён беларускі патрыёт... Прашу даслаць мне каталёг альбо сьпіс беларускіх кніжак і падаць адрас, дзе можна дастаць для сялян сёньня хоць пару асобнікаў...[31]

Падобных просьбаў у архіўным зборы Ельскіх знойдзем і больш. Але надзеі на дазвол царскіх уладаў адкрыць афіцыйныя беларускія школы ня спраўдзіліся, таму ў шматлікіх мясцовасьцях было арганізаванае падпольнае навучаньне. Такую школку стварыла, між іншых, Леантына Корсак (Korsakowa) у Бардзіловічах Дрысенскага павету на Віцебшчыне і выпісала зь Пецярбургу для сваіх вучняў "Беларускі лемантар"[32]. Падобную школку арганізаваў Канстанцін Гардзялкоўскі ў Папоўцы Сянскога павету таксама на Віцебшчыне (у ёй выкладаў у 1908 г. Якуб Колас)[33].

Выданьне беларускага лемантара летам 1906 г. прыпала на час, калі попыт грамадзтва на беларускія кніжкі абудзіўся рэвалюцыйнымі падзеямі, але не яны вызначылі зьяўленьне падручніка. Як было сказана вышэй, Іваноўскі прыступіў да працы над ім восеньню 1904 г., задума гэтага пачынаньня нарадзілася яшчэ ў 1902 г. Гэта былі перадрэвалюцыйныя гады, а тагачасныя ўмовы, у якіх знаходзілася грамадзтва, ня вельмі адрозьніваліся ад часоў Багушэвіча. Ідэя выданьня лемантара, да якой яшчэ не дасьпелі Марцінкевіч, Багушэвіч і іх сучасьнікі, была для тых часоў рэвалюцыйнай, бо выражала разрыў з традыцыяй XIX ст. Яе рэалізатары прыступалі да працы ў той час, калі набыткі рэвалюцыі яшчэ не былі ім вядомыя. Гэта сьведчыць ня столькі пра іхныя прарочыя здольнасьці, колькі пра рашучасьць намеру выдаць лемантар нават у нелегальных умовах і ў гэтых абставінах абудзіць цікавасьць грамадзтва да сваёй ініцыятывы[34].

Сярод разрозьненых, лягічна не зьвязаных паміж сабой сказаў, якія служылі матэрыялам для пачатковага навучаньня чытаць, знайшоўся адзін асаблівы, які мала што значыў для вучняў, але выражаў стаўленьне ягоных стваральнікаў — Іваноўскага і Кастравіцкага — да рэалізаванай задачы. Гучаў ён у абодвух варыянтах аднолькава: "Jany biarucca za heta dzieła i dumajuć, szto im udasca jano". Гэтым "дзелам" было стварэньне агульнанацыянальнай беларускай мовы і яе папулярызацыя, чаго і мусіў дасягнуць выдадзены падручнік. Сфармуляваныя ў ім прынцыпы акадэмік Я. Карскі красамоўна назваў пачаткам спэцыфічнага беларускага правапісу[35]. Цягам часу яны былі разьвітыя і ўдасканаленыя, але на пачатку XX ст. яны стварылі ў гэтым абсягу адбыты факт, над якім можна было спрачацца, але які немагчыма было ігнараваць.

*Пераклад зроблены паводле:* Slavia Orientalis. T. XXXV. 1986. № 3.

[31] Тамсама. Syg. 140—1. K. 151—152.
[32] Паведамленьне дачкі Л. Корсак, Зоф'і Дабрынскай, ад 12.04.1984.
[33] Александровіч С. На шырокі прастор. Аповесць пра Якуба Коласа. Мінск, 1979. С. 276—279.
[34] На гэта ўказвае цытаваны вышэй зварот да чытачоў з просьбай перадаваць кнігараспаўсюднікам усе заўвагі адносна зьместу лемантара — тыповы спосаб для кансьпірацыйнай выдавецкай дзейнасьці.
[35] Karskij E. Geschichte der weissrussischen Volksdichtung und Literatur. Berlin—Leipzig, 1926. S. 147.

# З гісторыі беларускага выдавецкага руху ў 1902—1905 гадох

На парозе XX ст. беларускі выдавецкі наробак быў яшчэ надзвычай сьціплы. Гэта было абумоўлена шэрагам гістарычных перадумоў, у тым ліку асабліва русіфікацыйнай палітыкай царызму. Паводле Юліі Бібілы, з часу паўстаньня 1864 г. да 1900 г., г.зн. амаль на працягу сарака гадоў, на абсягах Расейскай імпэрыі вялікага пярэчаньня цэнзуры ня выклікалі ўсяго толькі дзевяць брашур, выдазеных на беларускай мове агульным аб'ёмам у 160 старонак невялікага фармату[1]. У гэты самы час за мяжою зьявілася сем ці восем кніг з удвая большым агульным аб'ёмам[2]. Нягледзячы на цяжкасьці, выкліканыя нелегальным характарам іхнага распаўсюджаньня, яны зрабілі вялікі ўплыў на разьвіцьцё беларускай мастацкай літаратуры і прагрэсіўнай грамадзка–палітычнай думкі. Адмысловае значэньне мелі ў гэтым пляне творы Францішка Багушэвіча, якія былі свайго роду альфай і амэгай для дзяячоў беларускага адраджэньня. Варта адзначыць, што амаль уся гэтая выдавецкая прадукцыя паўстала ў апошнім дзесяцігодзьдзі XIX ст., што можна ацаніць як важны сымптом нараджэньня грамадзкага попыту на беларускую кніжку.

## Лёнданскія брашуры ППС

Выразнае ажыўленьне выдавецкае дзейнасьці пачалося на пачатку XX ст., за яе — поруч з самімі беларусамі — дзеля рэалізацыі сваіх палітычных мэтаў узялася Польская сацыялістычная партыя (ППС). Гэтыя мэты, акрэсьленыя на арганізацыйным зьездзе ППС у Парыжы (лістапад 1892 г.) і разьвітыя на III зьездзе ў Вільні (чэрвень 1895 г.), прадугледжвалі пашырэньне партыйнае дзейнасьці на Літву, Беларусь і Украіну, абуджэньне і падтрымку сэпаратысцкіх тэндэнцыяў сярод мясцовых сацыялістычных арганізацыяў, а таксама іх згуртаваньне пад эгідаю ППС для барацьбы з царызмам[3]. Аднак у першым дзесяцігодзьдзі свайго існаваньня ППС не распачала выдавецкай дзейнасьці на беларускай мове, арганізоўваючы затое нелегальны ўвоз некаторых беларускіх замежных выданьняў празь мяжу Расейскай імпэрыі[4].

Істотныя зьмены ў гэтым аспэкце прынесьлі пастановы VI зьезду ППС у Любліне (чэрвень 1902 г.), якія прадугледжвалі шырэйшы ўлік нацыянальнай спэцыфікі ў партыйнай працы ў Літве і Беларусі. Між іншым была створаная асобная акруга ППС для літоў-

[1] Летапіс беларускага друку. Ч. 2. Паасобныя выданьні на беларускай мове (1835—1916). Склала Ю.І. Бібіла. Выдавецтва Беларускай Дзяржаўнай Бібліятэкі. Менск, 1929. Гэта былі наступныя выданьні: Гаршын У. Сыгнал. Масква, 1891. — 31 с.; Ельскі А. Сынок! Пецярбург, 1895. — 13 с.; Ельскі А. Выбіраймася ў прочкі! Скарэй у Томск! Пецярбург, 1896. — 24 с.; Ельский А. Наши переселенцы. Віцебск, 1896. — 15 с.; Ельскі А. Слова аб праклятай гарэлцы. Пецярбург, 1900. — 9 с.; Тарас на Парнасе. Горадня, 1896. — 12 с.; тое ж. Віцебск, 1896. — 15 с. і 1898. — 17 с.; тое ж. Магілёў, 1900. — 24 с. Не разглядаюцца тут творы А. Пшчолкі, напісаныя збольшага па–расейску.

[2] Тамсама. Пра багацтво да беднасьць. Жэнэва, 1881. — 32 с.; Багушэвіч Ф. Дудка беларуская. Кракаў, 1891. — 77 с. і 1896. — 78 с.; яго ж. Тралялёначка. Кракаў, 1892. — 11 с.; яго ж. Смык беларускі. Познань, 1894. — 40 с.; Міцкевіч А. Пан Тадэуш. Пералажыў А. Ельскі. Львоў, 1893. — 41 с.; Дзядзька Антон. Тыльзыт, 1892. — 46 с. Паводле Ю. Бібілы, у 1891 г. за мяжою была выдадзеная "Вязанка" Я. Лучыны, якая, праўда, дагэтуль не была знойдзеная.

[3] Materiały do historii PPS i ruchu rewolucyjnego w zaborze rosyjskim 1893—1897. Warszawa, 1907. S. 19 i 149.

[4] Тамсама, с. 173. У 1895 г. празь перапраўны пункт каля Таўруг цераз прускую мяжу было правезена 332 асобнікі беларускіх выданьняў.

ска–беларускіх земляў (т.зв. “ППС у Літве”), а Цэнтральны рабочы камітэт (ЦРК) быў упаўнаважаны выдаваць агітацыйную літаратуру на мясцовых мовах. Зьезд пастанавіў пры гэтым, што “ППС пакідае за сабою паўнамоцтвы ўплываць на беларускі народ даступнымі ёй сродкамі, якія не супярэчаць прынцыпам і інтарэсам Беларускай сац[ыялістычнай] арг[анізацыі]”[5]. Такое рашэньне зьезду стварыла падставы для таго, каб ППС распачала ў Літве выданьне трох агітацыйных брашур на беларускай мове: “Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць”, “Як зрабіць, каб людзям стала добра на сьвеце” (у арыгінале “Як зробіць каб людзям стало добрэ на свеці”. — *Рэд.*) і “Хто праўдзівы прыяцель беднага народу” (у арыгінале “Хто праўдзівы прыяцель бедного народу”)[6].

Ідэя выданьня гэтых брашур, аднак, нарадзілася не на VI зьезьдзе ППС, а ППС паўстала крыху раней, імаверна, сярод сяброў ейнага гарадзенскага аддзяленьня. Паводле Браніслава Шушкевіча — аднаго зь дзеячоў гэтай арганізацыі, — іх апрацаваньнем занялася Яніна Міхнёўская, абшарніца зь Міневічаў Гарадзенскага павету, якая ў 1901 г. далучылася да дзейнасьці ППС у Горадні. Гэта, аднак, былі не звычайныя пераклады папулярных у той час польскіх агітацыйных брашур (“Ojciec Szymon”, “Dobra Nowina”) і інш., а творчая іх перапрацоўка, прыстасаваная да паняцьцяў беларускіх сялянаў[7]. Міхнёўская скончыла працу над брашурамі сама позна ўвесну 1902 г., пасьля чаго іх рукапісы былі перададзеныя Вітальду Ёдку–Наркевічу; ён у той час знаходзіўся ў Львове і летам 1902 г. пераслаў іх кіраўніку партыйнай друкарні ў Лёндане Баляславу Антаніну Енджаёўскаму (псэўд. Канёўскі).

Як вынікае зь зьместу лістоў Ёдкі–Наркевіча да Енджаёўскага, дзеячоў асабліва хвалявала пытаньне шрыфту, якім меліся быць надрукаваныя беларускія брашуры. Енджаёўскі меў намер выдаваць іх кірыліцай, пра што хутчэй за ўсё ў жніўні паінфармаваў Ёдку–Наркевіча. Той, аднак, аддаў перавагу лацінцы, што ў лісьце ад 21 верасьня 1902 г. абгрунтоўваў наступным чынам:

> Я б друкаваў беларускія рэчы польскім алфавітам; 1. яна больш адпаведная, бо мае *ć, ś, dź*, 2. там (на Беларусі. — *Ю.Т.*) ня ўмеюць чытаць ані «кірыліцай», ані лацінскімі літарамі, таму ўсё адно, як друкаваць, а інтэлігенцыя, якая будзе чытаць гэта сялянам, наш алфавіт знае[8].

Час, відавочна, прысьпешваў, таму Енджаёўскі, не чакаючы ўзгадненьня справы, вырашыў друкаваць брашуры кірыліцаю, на што ўказвае наступны ліст Ёдкі–Наркевіча ад 20 кастрычніка 1902 г.: “Пераходжу да твайго (ліста. — *Ю.Т.*) ад 21 м[інулага] м[есяца]. Мяне надзвычай засмучае, што вы робіце набор беларускай рэчы кірыліцаю[9].

Як паказваюць даты гэтага ліставаньня, набор першай брашуры быў пачаты да 21 верасьня 1902 году. Гэта была “Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць”, якая выйшла ўжо ў кастрычніку ці ў лістападзе. За некалькі тыдняў — у лістападзе ці сьнежні — выйшла друкам наступная брашура “Як зрабіць, каб людзям стала добра на сьвеце”. Брашуры налічвалі адпаведна 16 і 13 старонак невялікага фармату, наклад кожнай зь іх складаў 2000 асобнікаў, а кошт выданьня 52 рублі 80 капеек[10]. Такім чынам, хаця ўсе тры

[5] Centralne Archiwum Komitetu Centralnego Polskiej Zjednoczonej Partii Robotniczej [далей — CA PZPR] 305/III/1 pt. 2. K. 36—40, Матэрыялы VI зьезду ППС.

[6] Сёньня гэтыя брашуры — бібліяграфічная рэдкасьць. “Хто праўдзівы прыяцель беднага народу” захоўваецца ў бібліятэцы Інстытуту славістыкі ПАН, астатнія ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.

[7] Szuszkiewicz B. Organizacja grodzieńska PPS w latach 1898—1910 // Niepodległość. 1937. № 3(44). S. 529, 539. Шушкевіч піша пра тое, што Міхнёўская выканала пераклад трох брашур, хаця прыводзіць назву толькі адной — “Гутаркі…”. Лінгвістычны аналіз тэкстаў (лексыка, граматыка, ідыёмы, правапіс) пацьвярджае, што ўсе тры брашуры былі падрыхтаваныя адным аўтарам.

[8] CA PZPR 305/VII/49 pt. 1, ліст В. Ёдкі–Наркевіча ад 21.09.1902 г.

[9] Тамсама. Ліст В. Ёдкі–Наркевіча ад 20.10.1902 г.

[10] Przedświt. 1902. № 11—12. S. 445, 517; 1903. № 1. S. 37.

брашуры былі выдадзеныя з датаю 1903 г., першыя дзьве выйшлі ўжо ў апошніх месяцах 1902 г., і толькі трэцяя — "Хто праўдзівы прыяцель беднага народу" (16 старонак) — зьявілася ў студзені 1903 г., імаверна, тым сама накладам і тым сама коштам[11]. Іх набор рабіў Дамінік Сямашка, сябра Замежнага аддзяленьня ППС, які быў дэлегаваны з гэтаю мэтай з Парыжу ў Лёндан. У канцы студзеня 1903 г. увесь наклад гэтых брашур быў перасланы ў Кракаў, адкуль яны былі дастаўленыя ў Беларусь. Гэтая нелегальная перавозка была скончаная, напэўна, у сакавіку—красавіку 1904 г., паколькі з таго часу яны перасталі зьяўляцца ў анонсах выданьняў ППС, друкаваных на вокладках "Przedświtu".

Напрыканцы 1902 г. "Гасло" — орган Украінскай рэвалюцыйнай партыі — прывітала выхад "Гутаркі..." наступным чынам:

> Перад намі ляжыць невялічкая брашурка на беларускай мове, на той мове, якая найбліжэйшая да ўкраінскае. Але выдадзеная яна была не ўкраінскімі, не беларускімі і не расейскімі сацыялістамі. Як вядома, беларускай сацыялістычнай партыі не існуе[12], таму што, на жаль, беларускія сяляне і работнікі ня маюць уласнай інтэлігенцыі, якая б працавала сярод гэтага няшчаснага, эксплюатаванага народу. Мы лічым надзвычай вялікай заслугаю ППС, што яно ўзьняло пытаньне пра неабходнасьць сацыялістычна–рэвалюцыйнай прапаганды на Белай Русі на мове ейнага народу. <...> Выданьне гэтай брашуры яшчэ раз яскрава даводзіць усім, што ППС далёкая ад якога–кольвек нацыяналістычнага ўхілу <...>[13].

Камэнтуючы гэтае выказваньне, рэдакцыя "Przedświtu" зазначыла, што "распачатае намі выданьне беларускіх кніжак ёсьць беспасярэднім наступствам таго, што нашая партыя прыступіла да шырокай агітацыйнай працы ў Літве"[14].

Гэтае наступства, аднак, не было такім беспасярэднім, як яго ацаніў "Przedświt", а тэндэнцыя да агітацыйнай працы на беларускай мове не трывала доўга. Наступным і адначасова апошнім беларускім выданьнем, самастойна падрыхтаваным ППС у Літве, была адозва да працоўных з–пад Скідзеля "Да браці мужыкоў", надрукаваная ў траўні 1903 г. у мясцовай (krajowej) падпольнай друкарні[15]. Беручы пад увагу падабенства лексыкі і ўжытага правапісу, падаецца, што, як і тры лёнданскія брашуры, яна была апрацаваная Міхнёўскай з гарадзенскай арганізацыі ППС. Дарэчна заўважыць, што гэтыя публікацыі, часта прапагандаваныя ў кракаўскім "Przedświcie", замоўчваліся ў органе ППС у Літве — віленскай "Walce"; гэта сьведчыла, што паміж імі існавалі разыходжаньні наконт прапаганды на беларускай мове.

Наагул пазытыўна ў той жа час лёнданскія брашуры былі прынятыя ў беларускіх колах, якія ў значнай ступені спрычыніліся да іх распаўсюджаньня. Брашуры гэтыя выконвалі, мажліва, не зусім прадугледжаную выдаўцамі падвойную ролю: яны пашыралі ў грамадзтве элемэнтарныя прынцыпы рэвалюцыйнага мысьленьня і адначасова папулярызавалі беларускую мову, узбагачаючы яе грамадзка–палітычнаю лексыкай, і павышалі статус гэтай мовы, спрычыняючыся адначасова да разьвіцьця нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Як сьцьвярджаў праз гады Рамуальд Зямкевіч, "Гутарка..." і іншыя лёнданскія брашуры адыгралі вялікую ролю ў яго зацікаўленасьці беларушчынай[16]. Мусіць, гэта іх меў на ўвазе Янка Купала, кажучы пра вырашальны ўплыў рэва-

[11] Тамсама. 1903. № 2. S. 78.

[12] Адсюль можна зрабіць выснову, што напрыканцы 1902 г. "Гасло" ня ведала пра існаваньне Беларускай рэвалюцыйнай партыі.

[13] Przedświt. 1903. № 1. S. 21—22.

[14] Тамсама.

[15] Тамсама. 1903. № 6. S. 246. Арыгінальны тэкст адозвы захоўваецца ў: CA KC PZPR 305/III/36 pt. 8. K. 1. Матэрыялы ППС у Літве.

[16] Шлюбскі А. Новыя матэрыялы па гісторыі "Нашае Долі" // Полымя. 1929. № 3. С. 204.

люцыйных адозваў на беларускай мове на тое, што ён пачаў тварыць па–беларуску[17].

Вялікая папулярнасьць лёнданскіх брашур ППС у беларускіх асяродках спрычынілася да зьяўленьня ў гістарычнай літаратуры цьверджаньняў, нібыта Беларуская рэвалюцыйная грамада брала ўдзел у іх выданьні. Так, напрыклад, у 1923 г. Антон Луцкевіч пісаў, што "Гутарка..." была выдадзеная адно "пры дапамозе і пад эгідаю ППС", адзначаючы адначасова ролю ў гэтай справе свайго брата Івана, які ўвосень 1902 г. нібыта распачаў у Пецярбургу збор сродкаў на яе выданьне[18]. Вэрсія гэтая ў крыху іншай форме была ім паўтораная ў 1928 годзе[19]. У сьвятле прыведзеных фактаў гэтыя выказваньні, магчыма, не заслугоўвалі б увагі, калі б не служылі для фармуляваньня падобных ацэнак таксама і сучасным аўтарам[20].

## Выдавецкія спробы БРП

Публікацыі Польскай сацыялістычнай партыі, аднак, не закраналі праблемы беларускага нацыянальнага адраджэньня і нават выразна яе ігнаравалі[21]. Ясная рэч, што справа беларускай асьветы, культуры і нацыянальнай сьвядомасьці была задачаю не ППС, а саміх беларусаў. Захады ў гэтым кірунку рабіліся імі ў недалёкай мінуўшчыне ("Гомон", Адам Гурыновіч і іншыя), аднак яны былі адзінкавымі, і хоць і пакінулі заўважны сьлед у гісторыі і літаратуры, аднак не спарадзілі ані шырэйшага грамадзкага розгаласу, ані сталага выдавецкага руху.

Чарговую спробу распачаць выдавецкую дзейнасьць зрабіў Вацлаў Іваноўскі, які, скончыўшы гімназію ў Варшаве, увосень 1899 г. прыехаў у Пецярбург і паступіў на хімічны факультэт тэхналягічнага інстытуту. Тут ён арганізаваў беларускі гурток, які неўзабаве атрымаў назву Беларуская рэвалюцыйная партыя. Між іншымі ён залучыў да супрацоўніцтва студэнтаў Тэхналягічнага інстытуту — віленчука Лявона Малецкага і Антона Неканду–Трэпку зь Менску, а таксама дзяячоў пецярбурскай арганізацыі ППС — Мечыслава Міхаловіча і Рамуальда Мілера. Задачаю БРП была перадусім арганізацыя незалежнага беларускага выдавецтва, аднак яе выкананьне сустракала сур'ёзныя перашкоды. Адсутнічалі фінансавыя сродкі, адпаведныя спэцыялісты і нават асновы граматыкі і правапісу беларускай мовы, чаму істотна паспрыялі створаныя царскімі ўладамі абмежаваньні друку на гэтай мове. Цяжкасьці гэтыя не зьнеахвоцілі Іваноўскага, які верыў — кажучы ягонымі словамі — у магчымасьць стварыць "штосьці зь нічога". Ён пачаў з адносна сьціплай справы, а менавіта зь нелегальнай куплі памнажальнага апарату, на што патраціў усё зробленае падчас студэнцкай практыкі, адбытай улетку 1902 году[22].

Першаю адбітай на гектографе публікацыяй Беларускай рэвалюцыйнай партыі была адозва "Да інтэлігенцыі", якая зьявілася ў кастрычніку 1902 году. Як сьцьвярджае Аляксандар Бурбіс, яна была напісаная Малецкім у Вільні[23], гэта магло б сьведчыць пра тое,

---

[17] Кісялёў Г. Пуцявінамі Янкі Купалы. Дакументы і матэрыялы // Мінск: Навука і тэхніка, 1981. С. 7. — *Ю.Т.* Гл. таксама: Купала Я. Поўны збор твораў. Т. 9. Кн. 1. С. 271. — *А.С.*

[18] Г.Б. Дваццатыя ўгодкі БРГ // Змаганьне. 1923. № 21.

[19] Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў. 1903—1928. Вільня, 1928. С. 13.

[20] Александровіч С. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971. С. 118.

[21] Выдаўцы лёнданскіх брашур не цікавіліся фактам, што беларускія дзеці не маглі засвойваць школьныя прадметы на роднай мове; у той жа час яны абураліся на царскія ўлады з нагоды забароны іх адукацыі на польскай мове. Пар.: Як зрабіць, каб людзям стала добра на сьвеце. Лёндан, 1903. С. 8.

[22] Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, 1934. С. 69.

[23] Бурбіс А. Беларуская Соцыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы // Беларусь. Нарысы гісторыі, экономікі, культуры і рэволюцыйнага руху. Менск, 1924. С. 178. — *Ю.Т.*

Поўная вэрсія гэтае працы — пад загалоўкам "Кароткі агляд беларускага нацыянальна–рэвалюцыйнага руху" — надрукаваная ў беларускім дадатку да "Вестника народного комиссарита просвещения". Менск, 1921. № 1—2. — *А.С.*

што яна паўстала падчас летніх вакацыяў 1902 г., якія аўтар правёў у бацькоўскім доме. Варта заўважыць, што яна была напісаная і выдадзеная па–польску, для прасьцейшага яе прыняцьця адрасатамі — палянізаванаю інтэлігенцыяй Беларусі. Адозва апісвала долю цёмнага ашуканага і эксплюатаванага беларускага народу, абвінавачвала сацыяльныя пласты, якія патураюць царскаму рэжыму “сыстэматычна абкрадаць народ свой зь лепшай долі” і заклікала:

> Дайце народу асьвету, але дайце яе на роднай мове. Інакш яна ніколі не праточыцца ў нізы. Розум дзіцяці, які зь цяжкасьцю засвойвае агульныя паняцьці, робіць падвойную працу, засвойваючы іх на чужой мове. Адсюль недакладнасьць, хаос, зьнеахвочанасьць да вучэньня. Родная мова — гэта ж выраз душы, яе пачуцьцяў, думак. Урад ведае, што робіць, калі кідае жабрачыя аб'едкі асьветы па–расейску: ён ці ўвогуле адбівае ахвоту да навукі, ці стварае блытаніну паняцьцяў, разрывае беспасярэднюю еднасьць з народам у самых здольных, робіць зь іх слугаў, што мысьляць па–расейску, у зародку нішчыць нацыянальную адметнасьць, затрымлівае разьвіцьцё беларускай культуры. З усіх яго злачынстваў гэтае, бадай, найвялікшае: катаваньне дзяцінага розуму, скрыўленьне інтэлектуальнага разьвіцьця, маральнае разбэшчваньне — а ў пэрспэктыве — ператварэньне ў маскаля мовай і розумам, а калі ты яшчэ і праваслаўны — перад беларусам адкрываецца шлях да ганаровых пасадаў і дабрабыту — цаной здрады народу.
>
> Дайце народу спазнаць сваё мінулае. Чалавек, які ня памятае таго, што рабіў, адчуваў, думаў, які не распараджаецца нават уласным досьведам, — ня ведае, як распараджацца сабой, робіцца лялькай, людзкім пасьмешышчам. Ён можа толькі весьці вэгетатыўнае існаваньне. Гэта амаль быдла. І гэта — доля народу, які ня памятае гісторыі продкаў. Дык вы сталі нявольнікамі ня толькі таму, што вас зламалі паразы — вы сталі нявольнікамі праз свае душы — вы вернападданыя маскоўскага цара. Дзе вашыя законы? У пыле, забытыя, гніюць у бібліятэках, затое ўсемагутны бізун вісіць над вамі... Тым, чым для кожнай душы ёсьць сьвядомасьць, якая нанізвае на адну нітку пражытыя імгненьні, тое для нацыяў — злучэньне мінулых стагодзьдзяў зь цяперашчынай; авалодаваньне ёй, рахункам сумленьня, крыніцай, зь якой струменіць жаданьне новай працы для будучыні[24].

Выдаўцы адозвы разумелі, што распачаць шырокую асьветніцкую працу сярод беларускага народу пакуль немагчыма. “Даць людзям асьвету, пазнаёміць з роднай гісторыяй, — пісалі яны, — але як? Народнай літаратуры амаль няма, няма гісторыі…” Але ж яны высунулі пастулят, просты на словах, ды такі складаны на справе: “Іх належыць стварыць!” Цяпер гэта было штосьці большае, чым пажаданьне: да яго далучалася канкрэтная праграма стварэньня элемэнтарных арганізацыйных і матэрыяльных умоў, якія мусілі зрабіць магчымымі калектыўны культуратворчы высілак. Выглядаў ён так:

1. Засноўваць гурткі для працы над роднай мовай (граматыка!), краязнаўствам, гісторыяй, літаратурай. Зьвярнуцца да спэцыялістаў з просьбай прачытаць лекцыі і напісаць адпаведныя творы. Палегчыць ім гэтую працу, даўшы матэрыяльную дапамогу.
2. Прыступіць да перакладу адпаведных твораў з польскай і расейскай літаратур.
3. Арганізаваць збор сродкаў на выдавецкія мэты.
4. Арганізаваць продаж альбо распаўсюджаньне выданьняў[25].

Апошні пункт праграмы (“Выказваць пагарду тым, хто гэтага рабіць ня будзе”) паказваў таксама на рашучасьць дзеяньняў БРП, а таксама на яе імкненьне стварыць адпаведны грамадзкі клімат, які б спрыяў разгортваньню заплянаванай выдавецкай і асьветніцкай дзейнасьці. Адозва “Да інтэлігенцыі” фармулявала намеры, якія Іваноўскі

[24] Przedświt. 1903. № 2. S. 53—54. Тамсама поўны тэкст адозвы.

[25] Тамсама.

разьвіваў з часу свайго прыбыцьця ў Пецярбург і якія былі асновай ягонай грамадзкай дзейнасьці цягам больш чым дзесяці наступных гадоў. Такім чынам, можна зрабіць высноwу, што праграма гэтая была распрацаваная пад ягоным беспасярэднім кіраўніцтвам.

Чарговым выданьнем Іваноўскага была газэта “Свабода”, задуманая як орган Беларускай рэвалюцыйнай партыі. Першы і адзіны яе васьмістаронкавы нумар быў надрукаваны на гектографе ў канцы сьнежня 1902 году (з датаю 1903 г.), а ў яго падрыхтоўцы ўжо ўдзельнічала невялікая група студэнтаў, у склад якой, апроч Іваноўскага і Малецкага, уваходзілі: Рамуальд Мілер, Антон Валейка, Вінцэнт Валейка, а таксама Алёйзія Пашкевіч (Цётка) і, імаверна, Іван Луцкевіч, якія ўвосень 1902 г. прыехалі ў Пецярбург. Аднак дзеля непрадбачаных абставінаў амаль увесь наклад “Свабоды” быў зьнішчаны і аніводзін з ацалелых асобнікаў ня быў да гэтага часу выяўлены[26].

Такім чынам, “Свабода” не была распаўсюджаная, у сувязі з чым яе выданьне мае значэньне адно для вывучэньня поглядаў яго стваральнікаў. Як паведамляў Адам Станкевіч, спасылаючыся на ліст Іваноўскага ад 16 лістапада 1934 г., у “Свабодзе” былі зьмешчаныя два артыкулы, зь якіх адзін быў прысьвечаны палітычнай тэматыцы, а другі — адметнасьці беларускай нацыі ад суседніх. Зьмест тых артыкулаў дагэтуль невядомы. Аднак вядомы паэтычны дэбют Цёткі — верш “Мужыцкая доля”, які, аднак, ня меў ніякіх рэвалюцыйных ці антыўрадавых акцэнтаў[27]. Затое істотнае значэньне для характарыстыкі ідэйнай накіраванасьці “Свабоды” мае іншы зьмешчаны на яе старонках верш, выяўлены нядаўна ў лёнданскім архіве ППС, які захоўваецца ў Цэнтральным архіве ЦК ПАРП[28]. Гэта верш Уладзіслава Сыракомлі “Добрыя весьці”, які пасьля адпаведнай перапрацоўкі рэдактарамі “Свабоды” атрымаў абсалютна іншае гучаньне, прыстасаванае да новых умоў рэвалюцыйнай барацьбы. Пераробка верша адбылася ў двух кірунках: па–першае, былі зьнішчаныя ўсе антырасейскія акцэнты. Так, напрыклад, такія фармулёўкі Сыракомлі, як “лягчэй будзе сэрцу, як згінець маскаль” альбо “ня прыйдзе вораг з маскоўскага краю”, атрымалі ў “Свабодзе” наступнае гучаньне: “лягчэй будзе сэрцу, як згіне наш цар” і “ня прыйдзе вораг з чужога краю”; па–другое, прапагандаваныя Сыракомлем клясавая згода і супраўцоўніцтва сялянства з шляхтаю былі замененыя ў “Свабодзе” ідэяй рабоча–сялянскай салідарнасьці. Вось характэрны прыклад пераробкі:

| **Сыракомля:** | **“Свабода”:** |
| --- | --- |
| Мужык з панамі стаіць за–пан–браце | Мужык з рабочымі стаіць за панбраце |
| Рука за руку, а грудзь за грудзь. | Рука за руку, грудзь за грудзь. |
| Пяром на карце, ды сахой на ніве | Рукой у фабрыцы, сахой на ніве |
| Адзін другому роўнасьць засьцярог. | Адзін другому вольнасьць засьцярог. |

Верш гэты, а ў прыватнасьці зьнішчэньне ў ім антырасейскіх акцэнтаў, мог быць успрыняты кіраўніцтвам ППС як адмова БРП прапагандаваць сэпаратысцкія ідэі. Насамрэч, БРП бачыла рашэньне беларускага пытаньня не ў аддзяленьні ад Расеі, а ў рэвалюцыі і дэмакратычных пераўтварэньнях у гэтай дзяржаве. Імаверна, гэта быў асноўны крытэр, які абумовіў стаўленьне ППС да БРП, выклікаўшы крытыку яе праграмы культурна–асьветніцкай працы, выражанай у адозьве “Да інтэлігенцыі”. У лютым 1903 г. зь ёй выступіў “Przedświt”, нэгатыўна ацэньваючы шанцы беларускага нацыянальнага

[26] Доля гэтай газэты пададзена мной больш разгорнута ў артыкуле “Па сьлядох «Свабоды»”. (С. 17—19 гэтага выданьня. — *Рэд*).

[27] Пар.: Цётка. Творы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1976. С. 68—70. Прынагодна варта зьняпраўдзіць зьмешчаную там інфармацыю (с. 291), нібыта гэты верш быў упершыню надрукаваны ў “Каляднай пісанцы”, выдадзенай у Пецярбургу ў 1903 г.

[28] CA PZPR 305/III/55, pt. 12; Сыракомля У. Добрыя весьці // Свабода. 1903. № 1.

адраджэньня і прадказваючы БРП долю, якая за дваццаць гадоў да гэтага напаткала рэдакцыю "Гомона"[29]. Праявай гэтых тэндэнцыяў была прынятая на прапанову Пілсудзкага пастанова віленскай канфэрэнцыі ЦРК (чэрвень 1903 г.), згодна зь якой ППС устрымлівалася ад далейшага самастойнага выданьня агітацыйнай літаратуры на беларускай мове[30].

Гэтая пастанова мела істотнае практычнае значэньне. У 1903 г. беларускія дзеячы, яшчэ разьлічваючы на выдавецкую дапамогу ППС, падрыхтавалі да друку некалькі чарговых агітацыйных брашур на беларускай мове (у тым ліку аб прыгоне, а таксама пераклад расейскай брашуры "Бойкот и стачка") і пачалі збор сродкаў на іх друк. Брашуры гэтыя былі накіраваныя ў ЦРК ППС, аднак выдадзеныя не былі[31]. Ня быў выдадзены таксама і згаданы верш Сыракомлі "Добрыя весьці", які плянавалася выдаць у форме ўлёткі накладам 2000 асобнікаў[32].

## Беларускі "Круг" у Пецярбургу

Гэтыя цяжкасьці паглыбілі зьмены, якія ў той час пачаліся ў адзінай дагэтуль арганізацыі ў Пецярбургу. Напрыканцы 1903 г. там дзейнічаюць ужо дзьве суполкі: Беларуская рэвалюцыйная грамада і "Круг беларускай народнай прасьветы і культуры".

Пакідаючы ўбаку палітычныя ці асабістыя перадумовы разыходжаньняў, якія ўзьніклі паміж гэтымі групоўкамі, падаецца мэтазгодным зьвярнуць увагу на іх выдавецкія аспэкты. Вось жа, Беларуская рэвалюцыйная грамада, неўзабаве перайменаваная ў Беларускую сацыялістычную грамаду, не пачала выдавецкай дзейнасьці ані ў 1903, ані ў 1904 годзе, а сваю першую адозву, названую "Царава жніво" (у арыгінале "Царово жніво" — *Рэд.*), яна выдала адно ў студзені 1905 году[33]. Затое выдавецкую дзейнасьць працягваў пецярбурскі "Круг…", які ў той час быў галоўнай сфэрай грамадзкіх зацікаўленьняў Іваноўскага. У 1903 г. ён прыцягнуў да супрацоўніцтва студэнта Тэхналягічнага інстытуту Францішка Ўмястоўскага (псэўд. Дзядзька Пранук) і Казімера Кастравіцкага (псэўд. Карусь Каганец), а таксама яго брата Амброжага зь Ліды, наўпоблізь якой знаходзілася сядзіба Іваноўскіх у Лябёдцы — гэта ўзручняла іх узаемны кантакт. Нягледзячы на памяркоўныя культурныя і асьветніцкія мэты, "Круг…" ня мог дзейнічаць легальна і фармальна быў усяго прыватным хаўрусам людзей добрай волі, натхнёных супольным імкненьнем папулярызаваць беларускую кнігу. З гэтай прычыны пад эгідай "Круга…" выйшлі толькі нелегальныя брашуры пад назвамі "Калядная пісанка" і "Велікодная пісанка". Абедзьве былі выдадзеныя ў Пецярбургу на гектографе накладам у некалькі дзясяткаў асобнікаў кожная[34]. Як паведамляе прафэсар Сьцяпан Александровіч, "Калядная пісанка" зьявілася перад Раством 1903 г. і налічвала шэсьць старонак пісанага лацінкаю ад рукі і пасьля памножанага тэксту. Апроч кароткай прадмовы, яна зьмяшчала вершы Лучыны ("Роднай старонцы"), Каганца ("Малітва"), Цёткі, якая выступала тут пад псэўданімамі Банадысь Асака і Гаўрыла ("Мужыцкая доля" і "Мужык не зьмяніўся"), Дзядзькі Пранука ("Вецер") і дагэтуль невядомага паэта І. Стаўбуна ("Хто я?")[35]. Лепшаю з графічнага гледзішча была "Велікодная пісанка", выдадзеная падчас перадвелікоднага тыдня (у красавіку 1904 г.). Яна налічвала сем старонак памножанага машынапіснага тэксту ("кірыліцай") і, апроч прадмовы, зьмяшчала вершы Каган-

[29] Przedświt. 1903. № 2. S. 55—57.
[30] Sprawozdanie z konferencji CKR PPS z czerwca 1903 r. // Niepodległość. 1939. № 1(54). S. 111.
[31] CA PZPR 305/III/3, pt. 3. Пратакол канфэрэнцыі ЦРК ППС ад 16—17 сьнежня 1903 г.
[32] CA PZPR 305/III/55, pt. 12. Верш "Добрыя весьці".
[33] Бурбіс А. Тамсама, с. 179.
[34] Умястоўскі Ф. Праўда аб "Нашай Долі" // Беларускі Дзень. 1927. № 1; гл. таксама: Наша Ніва. 1914. № 5.
[35] Александровіч С. Тамсама, с. 113.

ца (“Адважна брацьце ўперад ідзіце…”), Гаўрылы–Цёткі (“Нямаш, але будзе” і “Музыкант беларускі”), а таксама апавяданьне Стэфана Жаромскага “Да свайго Бога” ў перакладзе Антося Дурнога. Цікавай публікацыяй, якая заканчвала “Велікодную пісанку”, была бібліяграфічная інфармацыя пра беларускую мастацкую і навуковую літаратуру[36]. Такім чынам, апроч перадрукаванага верша Лучыны “Роднай старонцы”, у абедзьвюх “Пісанках” быў прадстаўлены сьціплы, аднак арыгінальны беларускі творчы наробак, які стаўся першым крокам у рэалізацыі праграмы, зьмешчанай у адозьве “Да інтэлігенцыі”.

Вялікае значэньне для папулярызацыі беларускай кнігі мела выданьне ў Пецярбургу дзьвюх друкаваных кніжак: зборніка вершаў Янкі Лучыны “Вязанка” (1903 г., 21 с.) і зборніку народных казак “Казкі” (1904 г., 31 с.). Александровіч мяркуе, што яны былі выдадзеныя “Кругам…”[37], што пацьвярджае найперш іх аднолькавы наклад (па 5000 асобнікаў) і той факт, што яны былі надрукаваныя ў адной і той жа друкарні К. Пянткоўскага. Аднак вядома, што “Круг…” быў нелегальнай арганізацыяй, дзеля чаго ня мог зьвяртацца да ўладаў у выдавецкіх пытаньнях. Такія дзеяньні маглі зьдзейсьніць толькі прыватныя асобы, аднак не заўсёды яны былі схільныя прыцягваць да сябе ўвагу. Мусіць, з гэтай прычыны на тытульным аркушы “Вязанкі” не фігуравала імені выдаўца, а на зборніку “Казкі” стаялі ініцыялы А.К.

Абставіны выданьня “Вязанкі” былі цягам многіх дзесяцігодзьдзяў прадметам разнастайных, часта контравэрсійных меркаваньняў. У 1920 г. зьявілася інфармацыя, што ўкладаньнем і падрыхтоўкай да друку пасьмяротнай паэтычнай спадчыны Лучыны займаўся Іван Луцкевіч[38]. Гэта аспрэчыў Зямкевіч, сьцьвердзіўшы, што Луцкевіч быў толькі выдаўцом “Вязанкі”, якая была падрыхтаваная да друку самім аўтарам, яшчэ пры жыцьці[39]. Урэшце, трэцяя вэрсія цьвердзіла, што патрэбы зьбіраць спадчыну Лучыны ўвогуле не існавала, бо “Вязанка”, выдадзеная ў 1903 г., была перадрукам яе першага замежнага выданьня 1891 году[40]. Спрэчкі вяліся і наконт асобы яе выдаўца. Так, напрыклад, Зямкевічава цьверджаньне, што выдавец “Вязанкі” — Луцкевіч, выклікае спаважныя сумневы, калі браць пад увагу факт, што за некалькі дзён пасьля выдачы пецярбурскай цэнзураю дазволу на ейны друк (24 красавіка 1903 г.) Луцкевіч быў арыштаваны і некалькі месяцаў правёў у турме, пасьля чаго быў высланы паліцыяй зь Пецярбургу ў Менск[41].

Ня меншай з гэтага гледзішча загадкаю зьяўляюцца “Казкі”, якія дагэтуль не прыцягвалі вялікай увагі гісторыкаў літаратуры. Гэты зборнік быў не арыгінальным выданьнем, а перадрукам пяці выбраных казак, зьмешчаных П.В. Шэйнам у другім томе ягоных працаў “Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо–западного края” (Пецярбург, 1893 г.). Як паказвае параўнаньне двух тэкстаў, рэдактар зборніку “Казкі” ўнёс у сваё выданьне пэўныя моўныя зьмены, а таксама першы раз у гісторыі беларускага правапісу ўжыў знак памякчэньня пры дапамозе апострафу (*с’пиць, з’бираюць, м’не, лед’ве, ободз’ве*).

---

[36] У польскіх бібліятэках няма “Велікоднай пісанкі” ў арыгінале. Ксэракопія гэтага зборніка захоўваецца ў бібліятэцы Інстытуту славістыкі ПАН у Варшаве.

[37] Александровіч С. Тамсама, с. 109.

[38] Памяці Івана Луцкевіча. Вільня, 1920. С. 8.

[39] Зямкевіч Р. Ян Няслухоўскі (Янка Лучына) і яго няведамыя вершы // Нёман. 1932. № 2. С. 59.

[40] Майхровіч С. Янка Лучына. Жыццё і творчасць. Мінск, 1952. С. 41—42.

[41] Памяці Івана Луцкевіча. Вільня, 1920. С. 8—9; Луцкевіч А. Тамсама, с. 12. — *Ю.Т.*

Як паказвае Алена Глагоўская ў беластоцкай “Ніве” за 16.12.2001, “кніжачку беларускіх вершаў” Я. Лучыны дапамог паэту — “хаця пасьля сьмерці” — выпусьціць ягоны пляменьнік (сын ягонай сястры) А. Неканда–Трэпка, які вучыўся ў Пецярбургу адначасова з В. Іваноўскім і братамі Луцкевічамі і ўваходзіў у Круг беларускае народнае прасьветы і культуры, а з Луцкевічамі, да таго ж, быў амаль суседам у Менску. — *А.С.*

Прыхільнікам і прапагандыстам такога правапісу быў Казімер Кастравіцкі[42], з чаго можа вынікаць, што ён браў удзел у падрыхтоўцы зборніку “Казкі” да друку. У гэтым выпадку ня выключана, што сродкі на выданьне ахвяраваў ягоны брат, лідзкі лекар Амброжы Кастравіцкі, чые ініцыялы (А.К.) былі зьмешчаныя на тытульнай старонцы кніжкі.

Вынікі выдавецкай дзейнасьці пецярбурскага “Круга…” былі сьціплыя як колькасна, так і якасна. “Вязанка” не зьмяшчала рэвалюцыйнага ці антыцарскага зьместу, а “Казкі” былі ўсяго толькі чарговым фальклёрным зборнікам, хіба што ў беларускім афармленьні. Цікавейшымі і больш пэрспэктыўнымі ў пляне разьвіцьця літаратуры былі абедзьве “Пісанкі”, аднак з прычыны мінімальнага накладу, прымітыўнай тэхнікі і нелегальнага характару іх значэньне было абмежаваным. Да таго ж, легальна выдаваць у Пецярбургу грамадзка–палітычную літаратуру, як і якія–кольвек беларускія тэксты лацінскім шрыфтам, было немагчыма.

## Кракаўская місія Багушэўскага

Аднак гэткія магчымасьці існавалі за мяжою, і іх выкарыстаньнем занялася тройца студэнтаў, да якой належаў Вацлаў Іваноўскі зь Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту, Мар’ян Фальскі з Варшаўскага політэхнічнага інстытуту і Сьцяпан Багушэўскі зь Ягелонскага ўнівэрсытэту ў Кракаве. Праект новага выдавецкага прадпрыемства паўстаў, хутчэй за ўсё, улетку 1903 г. у выніку дамоўленасьці Іваноўскага з Багушэўскім, якія ў той час бавілі вакацыі ў свайго швагра Абмрожага Кастравіцкага ў Лідзе. Багушэўскі паходзіў зь Меншчыны і ўдзельнічаў у беларускім руху, у тым ліку ў Беларускай сацыялістычнай грамадзе і Беларускім сялянскім саюзе. Ён быў знаёмы з Фальскім з часоў, калі яны разам вучыліся ў Менскай гімназіі, і бадай у найбольшай ступені паўплываў на прыцягненьне Фальскага да беларускай выдавецкай дзейнасьці. Дзейнасьць гэтая, аднак, працягвалася менш чым два гады і — як пісаў Фальскі ў сваіх успамінах — была для яго адно пабочным грамадзкім зацікаўленьнем. Плёнам супрацоўніцтва гэтых маладых людзей былі наступныя кніжкі на беларускай мове, якія неўзабаве пабачылі сьвет у Кракаве:

1. Янка Музыкант. Па польскі напісаў Г. Сенкевіч, на беларускі язык перэлажыў Янка Сваяк [1904 г., 10 с., лацінка, бязь месца выданьня];
2. Ведзьма (аповесьць). З польскаго перэлажыў Янка Сваяк [1904 г., 16 с., лацінка, бязь месца выданьня];
3. Песьні [1904 г., 48 с., кірыліца, бязь месца выданьня];
4. Адозва “Царская гаспадарка” [налічвала 3,5 старонкі вялікага фармату, кірыліца, бязь месца выданьня].

Першыя два выданьні — “Янка–музыкант” і “Ведзьма” — і невялічкае апавяданьне Стэфана Жаромскага “Да свайго Бога” пераклаў Фальскі, які ўжываў псэўданім Янка Сваяк. Апрача таго, ён распрацаваў тэкст адозвы “Царская гаспадарка”, выкарыстоўваючы для гэтай мэты лёнданскія беларускія брашуры, а перадусім “Гутарку аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць”. Калі першыя тры апавяданьні Фальскі напісаў лацінкай, а дакладней нерэфармаваным польскім алфавітам (захоўваючы нават насавыя знакі –ę і –

---

[42] Германовіч І.К. Карусь Каганец як мовазнавец // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У.І. Леніна. Серыя IV. 1974. № 3. С. 33.

*ą*), то тэкст “Царскай гаспадаркі” ён даў тагачасным расейскім алфавітам, ужываючы пры гэтым знакі зьмякчэньня, прынятыя ў “Казках”. Аднак падчас працы над адозваю Фальскі ня бачыў яшчэ ані асобніка зборніку “Казкі”, ані іншага выданьня, якое служыла б яму за ўзор для перайманьня гэтых знакаў зьмякчэньня[43]. Гэта даводзіць, што ідэя ўжываньня ў “Царскай гаспадарцы” гэтага знаку выйшла зь пецярбурскага асяродку “Круга…”, зацікаўленага ў выданьні адозвы кірыліцаю.

Іншымі, аднак, былі абставіны выданьня “Песень”, у падрыхтоўцы якіх Фальскі ня браў удзелу. На гэта паказваюць дзьве акалічнасьці: па–першае, мяркуючы па ўспамінах Фальскага, зборнік гэты ня быў яму вядомы[44], і, па–другое, ён адрозьніваўся ад “Царскай гаспадаркі” граматыкаю і правапісам. Гэта была, як на тагачасныя абставіны, досыць тоўстая кніжка, якая зьмяшчала некалькі дзясяткаў ананімных вершаў Багушэвіча з замежных выданьняў “Дудкі…” і “Смыка…”, а таксама тры неапублікаваныя вершы Каганца (“Окліч” і “Ой, у полі вецер вые”) і Цёткі (“Мужыцкая доля”)[45]. Тэксты апошніх твораў маглі падаць толькі іх аўтары альбо Іваноўскі, і таму можна меркаваць, што ўкладаньнем “Песень” займаўся хтосьці з кола гэтых людзей. Цалкам імаверна, што ў апрацоўцы гэтага зборніку ўдзельнічаў таксама і Багушэўскі, гэта тлумачыла б вышэйзгаданыя непасьлядоўнасьці ў граматыцы і правапісе, у тым ліку досыць абмежаванае ўжываньне апострафа як знаку зьмякчэньня.

Апрача падрыхтоўкі рукапісаў, важным чыньнікам рэалізацыі выдавецкага праекту былі грашовыя сродкі. Гэтым разам іх нельга было знайсьці шляхам публічнага збору, бо праект быў закансьпіраваны ад царскіх уладаў. Нічым скончыліся й спробы атрымаць фінансавую дапамогу ад ППС. Пра гэта сьведчыць сьнежаньскі пратакол (1903 г.) канфэрэнцыі яе Цэнтральнага рабочага камітэту, цягам якое была прадстаўленая прапанова старшыні пецярбурскага “Круга…” (Іваноўскага) аб выданьні супольна з ППС беларускіх кніжак (“лацінскімі і расейскімі літарамі”). ЦРК не прыняў, аднак, ніякіх рашэньняў у гэтай справе[46]. Урэшце, на дапамогу прыйшла вядомая піяністка, а ў хуткім часе швагерка Іваноўскага, Катажына Ячыноўская, якая ахвяравала пэўную суму грошай на заплянаваныя беларускія выданьні[47].

На пачатку студзеня 1904 г. знойдзеныя такім чынам грошы і ўжо гатовыя рукапісы Багушэўскі перавёз у Кракаў. На першым этапе ён прыступіў да стварэньня пры Ягелонскім унівэрсытэце таварыства пад назваю “Акадэмічны краязнаўчы беларускі гурток”. У студзені—лютым ён распрацаваў праект статуту Гуртка, які 9 сакавіка быў зацьверджаны сэнатам унівэрсытэту[48] і за некалькі дзён перасланы на зацьверджаньне імпэратарскаму намесьніку графу Анджэю Патоцкаму ў Львоў. Патоцкі, аднак, заблякаваў стварэньне Гуртка, сябрамі якога — як прадугледжаваў праект статуту — маглі

[43] “Казкі” былі надрукаваныя прыкладна ў канцы верасьня альбо напачатку кастрычніка 1904 г., на што паказвае факт, што кантрольны асобнік гэтай кнігі быў дастаўлены ў пецярбурскае Галоўнае ўпраўленьне па справах друку цягам кастрычніка 1904 г. Пар.: Список книг, вышедших в России в 1904 году. Петербург, 1905. Пункт 11662.

[44] Falski M. Okruchy wspomnień. С. 10. Машынапіс, прадстаўлены сям’ёю. Фальскі напісаў свае ўспаміны ў сярэдзіне 1960–х гадоў.

[45] “Мужыцкая доля” была зьмешчаная ў “Свабодзе”, якая, аднак, не была распаўсюджаная, а таксама ў зборніку “Калядная пісанка”, які падчас падрыхтоўкі “Песень” да друку яшчэ ня быў выдадзены.

[46] CA PZPR 305/III/3, pt. 3. Пратакол канфэрэнцыі ЦРК ППС ад 16—17 сьнежня 1903 г.

[47] Пра фінансавую дапамогу Ячыноўскай пісаў Фальскі. Пар.: Александровіч С. Тамсама, с. 122. У траўні 1979 г. у размове з аўтарам дадзенай публікацыі пра гэта згадвала Марыя Арнольдзіха зь сям’і плоцкіх Альтбэргаў, у якіх у 1904 г. Іваноўскі быў частым госьцем. У той час ён праходзіў пасьлядыплёмную практыку на цукроўні Баравічкі пад Плоцкам.

[48] Archiwum Uniwersytetu Jagellońskiego w Krakowie S II 84. Пратаколы паседжаньняў акадэмічнага сэнату.

быць ня толькі студэнты і супрацоўнікі Ягелонскага ўнівэрсытэту, але і “кожны, каму агульным сходам гэты гонар будзе дадзены”. Рашэньне гэтае было перасланае 2 красавіка 1904 г. да ведама дырэкцыі Кракаўскай паліцыі і сэнату Ягелонскага ўнівэрсытэту з адначасовым загадам азнаёміць зь ім студэнта Багушэўскага сама позна 12 красавіка[49]. Пасьля гэтага Гурток мог праводзіць толькі дзейнасьць, накіраваную на самаліквідацыю.

Беларускі гурток пры Ягелонскім унівэрсытэце быў неабходны як юрыдычная інстытуцыя для правядзеньня самастойнай выдавецкай дзейнасьці. Пра іншыя ягоныя мэты можна меркаваць зь зьместу двух надрукаваных Багушэўскім апытальнікаў, якія зьмяшчалі падрабязныя пытаньні пра грамадзка–эканамічны і культурна–асьветніцкі стан жыхароў вёсак і мястэчак Беларусі. Яны тычыліся таксама і канфэсійных і моўных дачыненьняў, стану адукацыі, бібліятэк і характарыстыкі іх кнігазбораў, навыкаў чытаньня і пісаньня, запатрабаваньня на кніжкі і т.п. Асабліва красамоўна ў гэтым пляне гучыць наступны пункт культурнага апытальніка: “Як можа быць прынятая ў гэтым краі народная літаратура на беларускай мове, друкаваная лацінскімі літарамі і не абмежаваная расейскай цэнзураю?”[50]. Гэта паказвае, што, апроч выдавецкай дзейнасьці, Гурток плянаваў правядзеньне з дапамогаю сваіх сяброў сацыялягічнага апытаньня ў Беларусі, якое, між іншым, было паклікана праклaсьці дарогу беларускай кніжцы. Варта заўважыць, што абодва апытальнікі ня маюць на сабе надпісу кракаўскага гуртка, а на знойдзеных асобніках бачны толькі ягоны штэмпэль. Гэта наводзіць на думку, што яны маглі быць прызначаныя для выкарыстаньня таксама і падобнымі беларускімі арганізацыямі на тэрыторыі Расейскай імпэрыі, перадусім пецярбурскім “Кругам”.

Карыстаючыся з правоў, якія аб’яднаньні атрымлівалі падчас пэрыяду рэгістрацыі, Багушэўскі ўзяўся за друк прывезеных рукапісаў. “Янка–музыкант” і “Ведзьма” былі надрукаваныя ў друкарні Ўладзіслава Тэадарчука сама позна ў канцы сакавіка, пра што сьведчыць паведамленьне аб іх публікацыі, зьмешчанае ў красавіку 1904 году ў кракаўскім “Przewodniku Bibliograficznym”. Там, аднак, нічога не было паведамлена пра “Песьні”, з прычыны чаго месца выданьня гэтай кніжкі дагэтуль не было вядомае. Гэтае пытаньне ня так лёгка было высьветліць, бо апроч надпісаў “Дозволено цензурой СПб (Санкт–Петербург. — *Ю.Т.*) 17 декабря 1903 г.” і “Синодальная типография”, зьмешчаных, каб увесьці ў зман царскія кантрольныя органы, у “Песьнях“ не пададзена ніякіх зьвестак, якія б казалі пра месца выданьня. Аднак гэтую інфармацыю нам паведаміў сам Тэадарчук, пакінуўшы прынамсі на адным асобніку “Песень” замест “Синодальная типография” зьвесткі пра сваю друкарню. Гэты рарытэтны (магчыма, адзіны) асобнік, які ня быў прызначаны для нелегальнага экспарту ў Беларусь, нядаўна быў знойдзены мною ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве. Вераемна, Тэадарчук перадаў яго туды, каб задакумэнтаваць свой удзел у беларускай выдавецкай справе, якая, відавочна, не была яму абыякавая.

Пра тое, што “Царская гаспадарка” была выдадзеная ў Кракаве, пісалі як Карскі, так і Фальскі[51], але ніхто зь іх не ўдакладніў, у якой друкарні яна была выдадзеная. Аднак не выклікае сумневаў, што гэтая адозва выйшла ў друкарні Тэадарчука, што ўскосна пацьвярджаецца ідэнтычным характарам шрыфтоў “Царскай гаспадаркі” і “Песьняў”. Можна таксама паспрабаваць дакладней акрэсьліць час, калі была выдрукаваная “Царская гаспадарка”. Важную інфармацыю зьмяшчае ліст сябра ЦРК ППС Баляслава Чаркоўскага (“Леана”), высланы 18 красавіка 1904 г. з Варшавы Пілсудзкаму, які ў той час знаходзіўся ў Галіччыне. Там знаходзім наступнае: “Па беларускую

[49] Тамсама. S II 797. Акты акадэмічнага беларускага гуртка ў Кракаве.

[50] CA PZPR 305/VII/4, pt. 12. Падаўстрыйская Польшча, адозвы (1892—1918). На абодвух апытальніках стаяць авальныя пячаткі з надпісам: “Koło Białoruskie przy Uniwersytecie Jagiellońskim w Krakowie”.

[51] Карский Е.Ф. Белорусы. Т. 3. Ч. 3. Петроград, 1922. С. 155; Falski M. Тамсама, с. 10.

адозву мусіць прыехаць нейкі беларус у Кракаў”[52]. Паколькі да таго часу ў Кракаве ніякіх іншых беларускіх адозваў выдадзена не было, інфармацыя Чаркоўскага магла тычыцца толькі “Царскай гаспадаркі”, паказваючы, што яна была надрукаваная ў першай палове красавіка. Вераемна, у той самы час выйшлі друкам таксама і “Песьні”. Такім чынам, Багушэўскі рэалізаваў складзеную менш за год да таго выдавецкую праграму ў друкарні Тэадарчука ў сакавіку—красавіку 1904 г., плённа скарыстоўваючы часавы ліміт, утвораны працэдурай рэгістрацыі Беларускага гуртка пры Ягелонскім унівэрсытэце[53].

Варта дадаць, што пад “Царскай гаспадаркай” не фігуравала подпісу нейкай партыі ці арганізацыі. Што было прычынай гэтаму — невядома. З часам гэтую адозву паспрабавалі зьвязаць зь дзейнасьцю той ці іншай партыі. Карскі сьцьвярджаў, што яе выдала Беларуская сацыялістычная грамада, а Бурбіс і Луцкевіч — што Сацыялістычная партыя Белай Русі[54]. Падобныя меркаваньні выказваліся і адносна “Песень”, маўляў, яны былі справай рук альбо БСГ (Карскі), альбо БПР (Бурбіс), і нават вынікам супрацоўніцтва БРГ і ППС (Максім Багдановіч)[55]. Гучэлі таксама галасы, што, маўляў, “Песьні” былі выдадзеныя ў Лёндане[56]. Вельмі павярхоўнае ўяўленьне пра кракаўскія беларускія публікацыі меў і Леан Васілеўскі — адзін з найлепшых экспэртаў ППС у нацыянальных пытаньнях, які да таго ж у 1904 г. знаходзіўся ў Кракаве[57].

Гэтыя акалічнасьці пацьвярджаюць, што Іваноўскі, Багушэўскі і Фальскі ў Кракаве распачалі абсалютна самастойную выдавецкую дзейнасьць, якая не кіравалася ці натхнялася ані ППС, ані БРГ. Багушэўскі, аднак, выкарыстаў прыхільнасьць кракаўскіх сацыялістаў, у тым ліку друкара Тэадарчука і Енджаёўскага, які, вярнуўшыся зь Лёндану, кіраваў выдавецкай суполкай “Książka”, што месьцілася на вул. Гродзкай, 50, у Кракаве[58]. Гэтая суполка была галоўным складам замежных беларускіх выданьняў, сярод якіх знаходзіліся таксама “Песьні”[59]. З Кракава гэтыя выданьні пасутпова перапраўляліся праз зялёную мяжу ў Варшаву, а адтуль — у Беларусь, дзе іх распаўсюджвалі як мясцовыя арганізацыі БРГ/БСГ і ППС, так і энтузіясты, якія не належалі да ніводнай з гэтых партыяў[60].

## Перад новым этапам

Партыйная публіцыстычная дзейнасьць на беларускай мове ажывілася падчас расейска–японскай вайны і першай расейскай рэвалюцыі 1905 г., а ейным ініцыятарам ізноў

[52] CA PZPR 305/III/3, pt. 3. Матэрыялы канфэрэнцыі ЦРК ППС ад 16—17 сьнежня 1903 г.: ліст “Леана” ад 18 красавіка 1904 г.

[53] Для поўнай рэалізацыі гэтай праграмы бракавала толькі апавяданьня Жаромскага “Да свайго Бога”, якое, відаць, не было надрукаванае з тэхнічных прычынаў. Яно было закароткае, і яго немажліва было выдаць асобнай брашураю, якая налічвала б усяго дзьве старонкі. Гэтае апавяданьне было выдадзена крыху пазьней у Вільні літаграфічным спосабам. Адзіны ў Польшчы асобнік гэтага выданьня захоўваецца ў Галоўным архіве старадаўніх актаў (AGAD) у Варшаве ў зборы Прозараў і Ельскіх (шыфр. $140_2$). На ім зроблены ўласнаручны зацем Фальскага: “litogr. Wilno 1904”.

[54] Карский Е.Ф. Тамсама; Бурбіс А. Тамсама, с. 179; Луцкевіч А. Тамсама, с. 21.

[55] Багдановіч М. Збор твораў. Т. 2. Мінск: Навука і тэхніка, 1968. С. 230.

[56] Бурбіс А. Тамсама, с. 178; Александровіч С. Тамсама, с. 118 і 119.

[57] Wasilewski L. Litwa i Białoruś. Kraków, 1912. S. 278.

[58] Wojewódzkie Archiwum Państwowe w Krakowie, IT 1603. Акты выдавецкай суполкі “Książka”.

[59] AGAD, збор Прозараў і Ельскіх $140_2$, ліст В. Іваноўскага А. Ельскаму ад 31.04.1905.

[60] Адным зь іх быў Зыгмунт Нагродзкі — уладальнік складу земляробчых прыладаў у Вільні. Ён распаўсюджваў творы Багушэвіча “Дудку…” і “Смык…”, а таксама — як ён згадваў — зборнік ягоных вершаў пад назваю “Тралялёначка” (пар.: Луцкевіч А. Жыцьцё і творчасьць Фр. Багушэвіча ў успамінах яго сучасьнікаў // Запісы Беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1938. С. 29—30). Нагродзкі, аднак, памыляўся, паколькі “Тралялёначка” не была зборнікам вершаў. Гаворка ішла, мусіць, пра “Песьні”, аўтарства якіх часам прыпісваюць Багушэвічу.

была Польская сацыялістычная партыя. У сакавіку 1904 г. яна выдала антываенную адозву “Таварышы” на польскай, беларускай, літоўскай і латыскай мовах, падпісаную прадстаўнікамі чатырох сацыялістычных партыяў, у тым ліку Беларускай рэвалюцыйнай грамады. У сярэдзіне году зьявілася яшчэ адна адозва “Браты сяляне!” (гэтым разам толькі ў польскай і беларускай вэрсіях), якая мела пад сабой подпісы ППС і БРГ[61].

Увосень 1904 г. група сяброў ППС у Варшаве і Горадні, да якой належалі ў тым ліку Станіслаў Трускоўскі, Мар’ян Фальскі і Францішак Завадзкі, прыступіла да выданьня адозваў па–беларуску, падпісаных назовам фікцыйнае Сацыялістычнае партыі Белай Русі. У кастрычніку гэтая група выдала адозву “З вайны” (лацінкаю), у лютым 1905 г. — “Настаў час!” (лацінкаю) і, урэшце, у кастрычніку 1905 г. тры наступныя адозвы кірыліцай — “Братцы мужыкі!”, “Прызыўныя!” і “Якая карысьць народу з выбарнага правіцельства”. Гэта была адмысловая форма беспасярэдняга ўзьдзеяньня ППС на беларускі народ, якая фармальна не парушала пастановаў чэрвеньскай (1903 г.) канфэрэнцыі ЦРК аб невыдаваньні пад эгідай гэтай партыі прапагандысцкай літаратуры на беларускай мове. Імаверна, гэтым жа мэтам мусіла служыць і беларуская друкарня, заснаваная ў 1904 г. пры ўдзеле Аляксандра Прыстара і Валер’я Славэка ў кватэры Міхнёўскай у Горадні. Цяжка казаць, якія былі вынікі дзейнасьці гэтай друкарні, бо ў канцы 1904 г. у кватэры Міхнёўскай быў учыненыператрус, у выніку якога гаспадыня была арыштаваная, а друкарня ліквідаваная[62].

Самастойна выдаваць праклямацыі БСГ узялася на пачатку 1905 г. Ейная першая адозва “Царава жніво”, прысьвечаная расстрэлу дэманстрацыі працоўных у расейскай сталіцы, была надрукаваная на гектографе ў Пецярбургу ў студзені таго году, наступныя ж былі надрукаваныя ў Вільні і Менску. Паводле сьпісу, складзенага Бібілай (найпаўнейшага з дагэтуль апублікаваных), дапоўненага матэрыяламі з калекцыі ЦА ПАРП, цягам 1905 году БСГ выдала агулам 21 адозву, зь іх як мінімум 13 зьявіліся ў Вільні. Значную іх частку складалі вершы Цёткі “Хрэст на свабоду”, “Мора” і “Пад штандарам”, выдадзеныя ў кастрычніку 1905 г. у выглядзе ўлётак лацінкаю і кірыліцай. Паводле зьместу засталыя адозвы можна падзяліць наступным чынам:

1. Барацьба за канстытуцыйны лад: “Што такое констытуцыя”, “Далоў цараву «думу»!”, “Царава «дума»”, “Таварышы работнікі!” (у арыгінале “Товарышчы работнікі”. — *Рэд.*);
2. Прапаганда аграрнай праграмы: “Першы мужыцкі зьезд”, “Братке гаспадарэ!”, “Да тых мужыкоў, якія возяць дровы на Тальку і Мар’іну Горку”, “Да ўсіх работнікаў і работніц дваровых, да ўсіх дзеравенскіх людзей туташняй зямлі Беларускай” (у арыгінале “До ўсіх работнікоў і работніц дваровых, да усіх дзеравенскіх людзей тутошней зямлі Беларуской”. — *Рэд.*);
3. Барацьба за грамадзкую салідарнасьць: “Чым цар ратуецца”, “Да салдатаў!”, “Браты хрысьціяне!”;
4. Іншыя: “Царава жніво”, “За свабоду!”, “Да ўсіх работнікаў і работніц Вялейскай бальніцы” (у арыгінале “До всіх работніков і работніц Вілейской бальніцы”. — *Рэд.*, “Очерк программы БСГ”.

Апроч адозваў БСГ, цягам 1905 г. Літоўская сацыял–дэмакратычная партыя (ЛСДП) надрукавала ў выглядзе ўлётак верш Цёткі “Хрэст на свабоду” (лацінкай і кірыліцай), а напрыканцы таго году Беларускі сялянскі саюз выдаў адозву пад назваю “Беларускі крестьянскі союз”. Усе згаданыя адозвы, за выняткам “Царава жніва”, былі надрукаваныя ў друкарнях ППС і ЛСДП у Вільні, а таксама РСДРП у Менску. Толькі на пачатку 1906 г. БСГ заснавала ў Менску ўласную друкарню, якою кіраваў Фэлікс Стацкевіч. Гэта

---

[61] Przedświt. 1904. № 3. S. 133—135 i № 7. S. 301—305. Тэксты абедзьвюх адозваў захоўваюцца ў ЦА ПАРП.
[62] Szuszkiewicz B. Тамсама, с. 529.

паўплывала на далейшы рост выдавецкай актыўнасьці партыі цягам 1906 г., пра якую, аднак, не стае канкрэтных дадзеных[63]. Адсутнічаюць таксама (апрача Цёткі) падрабязнасьці пра аўтараў адозваў БСГ, якія ў значнай частцы былі арыгінальнымі распрацоўкамі.

Нарастаньне рэвалюцыйнай хвалі схіліла расейскі ўрад да пэўных саступак у яго тагачаснай нацыянальнай палітыцы, што праявілася ўва ўказе цара Мікалая II ад 25 сьнежня 1904 г., які скасоўваў абмежаваньні на ўжываньне мясцовых моў у заходніх губэрнях імпэрыі. Гэты ўказ меў істотнае значэньне для беларускай выдавецкай дзейнасьці, бо ён ствараў мажлівасьці яе больш плянамернага разьвіцьця, у прыватнасьці, арганізацыі самастойнага выдавецтва. Варта ўвагі тое, што ў Пецярбургу прыгатаваньні ў гэтым кірунку былі распачатыя сама менш за колькі месяцаў да абвяшчэньня царскага ўказу. Як пісаў Іваноўскі Аляксандру Ельскаму ў лісьце ад 24 лютага 1905 г.:

> Тутака так сама ёсьць людцоў колькі, што перэлажылі ксёнжачэк крыху, толькі з грашмі кепска… Але так сама ўшоў не апускаючы прыгатавалі: “Сыгнал” Гаршына, “Міхалка” Пруса, “Крыста” Канапніцкае, “Гутаркі аб небе і зямлі”. Лемэнтарык (павэдлуг Промыка) будзе гатоў за месяц[64].

Апроч гэтых кніг, якія — судзячы з цытаванага ліста — былі апрацаваныя цягам 1904 і на пачатку 1905 г., у наступныя месяцы быў падрыхтаваны да друку шэраг іншых выданьняў, у тым ліку Цётчына “Першае чытаньне для дзетак беларусаў”.

Поруч з тэндэнцыяй выдаваньня папулярнай літаратуры новым элемэнтам гэтай дзейнасьці была задума стварыць першыя беларускія школьныя падручнікі, якія зьявіліся на цэлае дзесяцігодзьдзе раней за беларускія школы. Дзеля нястачы адпаведных філёлягаў падрыхтоўкай лемантара заняўся інжынэр–хімік Іваноўскі, а чытанак — фэльчарка Цётка. “Гутаркі аб небе і зямлі”, якія па сутнасьці былі падручнікам геаграфіі і астраноміі, апрацавалі Казімер Кастравіцкі і С. Шаўлоўскі, аніводзін зь якіх ня быў спэцыялістам у гэтай галіне. У той жа час гэтыя людзі, а асабліва Іваноўскі і Кастравіцкі, выпрацавалі ўніфікаваныя правілы беларускага правапісу як кірыліцаю, так і лацінкаю, уводзячы ў апошнім выпадку ейную новую сыстэму, заснаваную на чэскім алфавіце. За некалькі гадоў гэтыя правілы былі прынятыя іншымі беларускімі выдавецтвамі, а таксама “Нашай Нівай”. Урэшце, цягам 1905 г. у Пецярбургу была праведзеная арганізацыйная і матэрыяльная падрыхтоўка, якая зрабіла магчымай дзейнасьць створанай увесну 1906 г. першай легальнай выдавецкай суполкі пад паказальнаю назваю “Загляне сонца і ў наша аконца”.

У гісторыі беларускага выдавецкага руху 1902—1905 г. утвараюць пераходны пэрыяд ад адзінкавых індывідуальных выдавецкіх высілкаў апошняй дэкады XIX ст. да скаардынаванай дзейнасьці выдавецкай суполкі “Загляне сонца і ў наша аконца”. Між найважнейшых вехаў гэтага пэрыяду асаблівай увагі заслугоўваюць: пасьлядоўнае імкненьне дасягнуць мэтаў, пастаўленых у адозьве “Да інтэлігенцыі”, а таксама калектыўны характар дзеяньняў невялікай групы энтузіястаў выдавецкай справы. З прычыны неспрыяльных палітычных умоў гэтая дзейнасьць не магла быць яшчэ цалкам плянамернай, тым ня менш яна была працяглаю, што зрабіла мажлівым сыстэматычнае назапашваньне досьведу і яго выкарыстаньне для будучай выдавецкай дзейнасьці. Гэтыя дасягненьні пецярбурскіх выдаўцоў сталі ў выніку сур’ёзнай сілаю, якая паўплывала на разьвіцьцё творчых зацікаўленасьцяў перадусім Цёткі, Каганца і Купалы, якія распачалі новы этап у гісторыі беларускай літаратуры.

*Пераклад зроблены паводле:* Studia polono–slavica–orientalia. Acta litteraria IX. 1985.

---

[63] Луцкевіч А. Тамсама, с. 25—26.

[64] AGAD, збор Прозараў і Ельскіх $140_2$, ліст В. Іваноўскага А. Ельскаму ад 24 лютага 1905 г.

# Узаемадачыненьні ППС зь беларускім рэвалюцыйным рухам у 1902—1906 гадох

Перш чым пачаць аналіз дачыненьняў ППС да беларускага рэвалюцыйнага руху, які ў 1902—1906 гадох прадстаўлялі тры арганізацыі, якія пачаргова зьмянялі адна адну, а менавіта Беларуская рэвалюцыйная партыя (БРП), Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ) і Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ), трэба высьветліць простае на выгляд пытаньне: калі і ў якіх акалічнасьцях паўстала гэтая першая беларуская палітычная арганізацыя. Гэта ня лёгка, бо практычна ўся літаратура, датычная гэтага прадмету, абапіраецца не на дакумэнтальныя крыніцы, але галоўным чынам на ўспаміны Антона Луцкевіча і Аляксандра Бурбіса[1]. Абодва яны належаць да кола стваральнікаў гэтай партыі, таму іх выказваньні разглядаліся як аўтарытэтная крыніца інфармацыі і паўтараліся даслоўна ці зь невялікімі мадыфікацыямі гісторыкамі і публіцыстамі[2].

Першыя зьвесткі ў гэтым пытаньні Луцкевіч падаў у 1909—1910 гадох, г.зн. усяго праз некалькі гадоў пасьля стварэньня гэтай партыі. Тады ён пісаў, што ў 1902 г. у Пецярбургу прыбылыя зь Менску дзяячы арганізавалі Круг беларускай народнай прасьветы, які пад уплывам спрычыненых царскімі ўладамі цяжкасьцяў у разьвіцьці асьветнай дзейнасьці неўзабаве раздваіўся. Адна частка чальцоў гэтага круга адмовілася ад далейшай дзейнасьці, іншая ж, радыкальная іх частка, зімой 1902/1903 г. заклала падваліны першай беларускай палітычнай арганізацыі — БРГ, якая ў канцы 1903 г. зьмяніла сваю назву на БСГ[3].

У 1921 г. наконт гэтага выказаўся Бурбіс, які, мабыць, карыстаўся згаданай вэрсіяй Луцкевіча і паўтарыў яе з адным істотным выняткам. Вось жа, на думку гэтага аўтара, частка чальцоў арганізаванага ў 1902 г. Круга беларускай народнай прасьветы ў тым самым 1902 г. заснавала не БРГ, а Беларускую рэвалюцыйную партыю, якая да канца таго ж 1902 г. была перайменаваная ў БРГ, а тая на сваім першым зьезьдзе ў 1903 г. прыняла назву БСГ[4].

---

[1] У 1930–х г. А. Луцкевіч напісаў працу “Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля Сацыялістычнае) Грамады (Даты і факты)”, аднак яна цалкам не захавалася (гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. Мінск, 2003). — *А.С.*

Стары Піліп (Бурбіс А.). Кароткі агляд беларускага нацыянальна–рэвалюцыйнага руху // Весьнік Народнага Камісарыяту Асьветы Сацыялістычнай Радавай Рэспублікі Беларусі. 1921. № 1—2; Новина А. (Луцкевіч А.) Белорусы // Формы национального движения в современных государствах. Петербург, 1910; idem. Odrodzenie narodowe Białorusinów // Litwa. 5.3.1909. № 4(10); Г.Б. (Луцкевіч А.) Дваццатыя ўгодкі / / Змаганьне. 1923. 23 сьнежня; Луцкевіч А. За двадцаць пяць гадоў... Вільня, 1928. — *Ю.Т.*

Да гэтага сьпісу літаратуры можна дадаць працу А. Луцкевіча “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”, а таксама яго ўласныя паказаньні НКВД БССР (гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі...). — *А.С.*

[2] Біч М., Палуян У. Беларуская сацыялістычная грамада // Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. II. Мінск, 1970; Гісторыя Беларускай ССР. Т. II. Мінск, 1972; Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Менск, 1926; Мялешка М. Соцыялістычны рух на Беларусі ў праклямацыях 1905 году. Менск, 1927; Недасек Н. Большевизм в революционном движении Белоруссии. Мюнхен, 1956; Пануцэвіч В. Беларуская адраджэнская ідэалёгія // Беларуская Царква. Чыкага, 1965. № 29; Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, 1935; Турук Ф. Белорусское движение. Москва, 1921.

[3] Nowina A. (Луцкевіч А.) Odrodzenie narodowe Białorusinów // Litwa. № 4(10). 05.03.1909. S. 52; яго ж. Белорусы // Формы национального движения в современных государствах. Петербург, 1910. С. 390—392.

[4] Стары Піліп (Бурбіс А.). Кароткі агляд... 1921. № 1. С. 6—7.

У міжваенныя гады Луцкевіч адступіў ад сваёй спачатнай вэрсіі. У 1923 г. ён сьцьвярджаў, што БРГ паўстала ў самым канцы 1903 г.[5], а ў 1928 г. пісаў, што гэта адбылося ўвосень 1903 г.[6]. Адначасна ён сьцьвярджаў, што БРГ набыла назву БСГ у канцы 1905 г., г.зн. на два гады пазьней, чым ён казаў папярэдне. Луцкевіч не зьмяніў думкі толькі ў пытаньні БРП, існаваньне якой ён пасьлядоўна ігнараваў, увесь час падкрэсьліваючы, што першай беларускай палітычнай арганізацыяй была БРГ.

Сьведчаньні Луцкевіча зьмяніліся ня толькі ў пытаньні датаў, але таксама і ў пытаньні акалічнасьцяў узьнікненьня БРГ. Гэтак, у 1923 г. ён пісаў, што яна была створаная яго братам Іванам Луцкевічам — лідэрам радыкальнай групы чальцоў Круга[7], а ў 1928 г. сьцьвярджаў, што ўзьнікненьне як Круга, так і БРГ было вынікам калектыўных дзеяньняў Івана і Антона Луцкевічаў і Вацлава Іваноўскага, якіх ён называў "добра сьпетай тройкай, узяўшай на сябе кіраўніцтва" беларускага студэнцкага руху ў Пецярбургу. Пры гэтым замік спачатнай канцэпцыі раздваеньня ці дыфэрэнцыяцыі сярод дзяячоў круга ён падаў новую вэрсію аб радыкалізацыі поглядаў усёй гэтай кіраўнічай тройкі[8].

Такім чынам, Луцкевіч меў прынамсі тры вэрсіі генэзы БСГ, а менавіта — у 1909—1910, у 1923 г. і ў 1928 г., пры гэтым пазьнейшыя яго выказваньні пярэчылі ранейшым. Павялічылася таксама разьбежнасьць паміж вэрсіямі Луцкевіча і Бурбіса. Гэта выклікала паняцьцёвую блытаніну вакол генэзы беларускага нацыянальнага і рэвалюцыйнага руху. Гэтую праблему ўжо на пачатку 1929 г. адзначыла віленская "Biełaruskaja Krynica", якая, ацэньваючы кагадзе выдадзеную брашуру Луцкевіча "За двадцаць пяць гадоў", пісала:

> Ясная рэч, што такая падзея, як узьнікненьне першай беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, павінна быць дакладна акрэсьленая ў часе. Дык жа паводле аўтара згаданай брашуркі, Беларуская рэвалюцыйная грамада паўстала ўвосень 1903 г. у Пецярбургу. У канцы 1905 г. адбыўся партыйны зьезд гэтай арганізацыі, які перайменаваў яе ў Беларускую сацыялістычную грамаду. Між тым А. Бурбіс, выдатны чалец БРГ, сьцьвярджае штосьці іншае. <...> Такім чынам, мы бачым, што гады, пададзеныя п. А. Луцкевічам, сумнеўныя, і ўвогуле пытаньне гэтае застаецца адкрытым. Дзеля дакладнага вызначэньня гэтых так важных для нас гадоў шмат мог бы зрабіць перадусім Вацлаў Іваноўскі, цяпер прафэсар Варшаўскай палітэхнікі, а таксама Францішак Умястоўскі — адны зь першых піянэраў тагачаснага беларускага руху[9].

Аднак Іваноўскі, які ў гэтай справе мог сказаць ня менш за Луцкевіча, не адгукнуўся на заклік "Biełaruskaj Krynicy". Няшмат ён патлумачыў у гэтай справе таксама і ў 1934 г. у сваім лісьце да ксяндза Адама Станкевіча, у якім, аднак, ён паведаміў іншую важную дэталь, а менавіта, што ўжо перад 1902 г. у Пецярбургу існавала нефармальнае кола беларускіх студэнтаў, якое фактычна было пачаткам БСГ[10]. Ад таго часу мінула паўстагодзьдзя, аднак дасьледаваньні генэзы БСГ не пасунуліся наперад[11]. Пра гэта сьведчыць далейшая разьбежнасьць ацэнак сучасных гісторыкаў, зь якіх адныя трымаюцца думкі, што БРГ узьнікла ў 1902 г., а іншыя — у 1903 г.[12]. Няцяжка заўважыць, што гэтыя супярэчнасьці ўзьнікаюць у пытаньні стаўленьня да БПР. Бо тыя аўтары, якія ўсьлед за

---

[5] Г.Б. (Луцкевіч А.) Дваццатыя ўгодкі // Змаганьне. 1923. 23 сьнежня. № 21. С. 2—3.
[6] Луцкевіч А. За двадцаць пяць гадоў. Вільня, 1928. С. 10.
[7] Г.Б. (Луцкевіч А.) Дваццатыя ўгодкі...
[8] Луцкевіч А. За двадцаць пяць гадоў... С. 8—9.
[9] Biełaruskaja Krynica. 01.02.1929. № 5.
[10] Станкевіч А. Тамсама, с. 69.
[11] У БССР вывучэньне гэтага пытаньня не ўхвалялі. —*А.С.*
[12] Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. II. Мінск, 1970. С. 230; Гісторыя Беларускай ССР. Т. II. Мінск,

Луцкевічам адмаўляюць яе існаваньне, сьцьвярджаючь, што БРГ паўстала ў 1903 г., а тыя, якія схіляюцца да пазыцыі Бурбіса, трымаюцца думкі, што яна была створаная ўжо ў 1902 г.

Такім чынам, пажаданьне "Biełaruskaj Krynicy" ня страціла актуальнасьці. Гэта абгрунтоўвае дасьледаваньне дадзенага пытаньня на падставе архіўных дакумэнтаў і публікацыяў БРП—БРГ—БСГ ды ППС. Дзякуючы гэтаму мы плянуем правесьці вэрыфыкацыю паведамленьняў Луцкевіча і Бурбіса што да генэзы першай беларускай палітычнай партыі, а таксама прасачыць яе ўзаеміны з ППС.

У канцы XIX ст. польскі сацыялістычны рух намагаўся выкарыстаць пачуцьцё нацыянальнай адметнасьці, якое абуджалася ў беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў, для стварэньня супольнай плятформы для вызвольнай барацьбы супраць царызму, мэтай якой мела быць адбудова Рэчы Паспалітай у межах 1771 г. Пра гэта сьведчаць пастановы арганізацыйнага зьезду ППС у Парыжы (лістапад 1892), разгорнутыя на III зьезьдзе ў Вільні (чэрвень 1895), якія прадугледжвалі пашырэньне партыйнай дзейнасьці ў Беларусі, Літве і Украіне, абуджэньне і падтрымку сэпаратысцкіх тэндэнцыяў сярод мясцовых сацыялістычных арганізацыяў, а таксама іх згуртаваньне пад эгідай ППС для барацьбы супраць царызму[13]. Аднак усьлед за гэтымі дэклярацыямі ППС у першае дзесяцігодзьдзе свайго існаваньня не высоўвала ніякіх ініцыятываў для арганізацыі беларускай партыі ці выданьня агітацыйнай літаратуры на беларускай мове[14]. Асобныя дзеячы ППС, асабліва Аляксандар Сулькевіч, арганізоўвалі адно нелегальную перавозку ў Беларусь некаторых выданьняў на беларускай мове, друкаваных па–за межамі Расейскай дзяржавы (напрыклад, "Дудка Беларуская" і "Смык Беларускі" Ф. Багушэвіча, "Дзядзька Антон" і іншых).

Істотныя зьмены ў гэтым аспэкце прынесьлі рэзалюцыі VI зьезду ППС у Любліне (чэрвень 1902 г.), якія прадугледжвалі наданьне большай увагі нацыянальнай спэцыфіцы ў партыйнай працы ў Літве і Беларусі. У той час была створаная асобная акруга ППС для літоўска–беларускіх земляў (т.зв. ППС у Літве), і Цэнтральны рабочы камітэт быў упаўнаважаны выдаваць агітацыйную літаратуру на мясцовых мовах[15]. Згодна з гэтай рэзалюцыяй, ППС выдала ў Літве тры брашуры на беларускай мове ("Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць", "Як зрабіць, каб людзям стала добра на сьвеце" і "Хто праўдзівы прыяцель беднага народу"), якія ў канцы 1902 г. і ў студзені 1903 г. былі надрукаваныя ў пэпээсаўскай друкарні ў Лёндане. Апроч таго, у траўні 1903 г. літоўскі аддзел ППС выдаў на беларускай мове адозву да земляробаў з–пад Скідзеля ("Да браці мужыкоў").

У дзейнасьці ППС, якая ў той час распачынала прапагандысцкую дзейнасьць на ўсіх мовах жыхароў Літвы і Беларусі, згаданыя публікацыі не былі чымсьці выключным. Але ў колах беларускай інтэлігенцыі яны ацэньваліся іначай, бо яны папулярызавалі ня толькі рэвалюцыйныя ідэі, але таксама і беларускую мову. Мабыць, гэтым тлумачыцца зробленае ў 1917 г. Аляксандрам Прушынскім (Алесем Гаруном) цьверджаньне, што ППС "запачаткавала беларускі сацыялістычны рух, бо, працуючы сярод нашых работнікаў і сялян, гэтая партыя старалася абудзіць іх нацыянальнае пачуцьце"[16]. Падобнага пагляду пазьней трымаліся Адам Станкевіч, дзеячы ППС Мэнахім

1972. С. 313; Kosman M. Historia Białorusi. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1979. S. 263; Jurkiewicz J. Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905—1922. Poznań, 1983. S. 97—98.

[13] Materiały do historii PPS i ruchu rewolucyjnego w zaborze rosyjskim 1893—1897. Warszawa, 1907. S. 19 i 149.

[14] Адна зь першых агітацыйных брашур на беларускай мове "Дзядзька Антон" была выдадзеная на пачатку 1892 г. у Тыльзыце Мар'янам Абрамовічам, які ніколі ня быў чальцом ППС, а сродкі на яе выданьне сабраў Польскі гурток у Маскве, які яднаў сяброў рознай палітычнай арыентацыі.

[15] Матэрыялы VI зьезду ППС. Цэнтральны архіў ЦК ПАРП, 305/III/1. Справа 2. В. 36—40.

[16] Станкевіч А. Тамсама, с. 71—72.

Вайнэр, Уладзіслаў Побуг–Маліноўскі і іншыя, падкрэсьліваючы вялікую ролю ППС ува ўзьнікненьні першай беларускай рэвалюцыйнай партыі[17].

Адносна нядаўна на гэтую тэму выказаўся Вацлаў Пануцэвіч, сцьвярджаючы, што ўжо ў 1896 г. ува ўлоньні ППС паўстала беларуская група пад назвай Беларуская рэвалюцыйная партыя, кіраўніцтва якой складалі Вацлаў і Тадэвуш Іваноўскія, Іван і Антон Луцкевічы, Лявон Малецкі, Л. Мілер, Мечыслаў Міхаловіч і Аляксандар Бурбіс[18]. Не падлягае сумневу, што, выказваючы гэты погляд, Пануцэвіч выкарыстаў зьвесткі, якія паведаміў Станкевіч: В. Іваноўскі распачаў дзейнасьць у Пецярбургу ў 1896 г.[19]. Аднак гэтая інфармацыя не адпавядала рэчаіснасьці. У 1896 г. В. і Т. Іваноўскія былі яшчэ вучнямі Варшаўскай гімназіі і мелі 16 і 14 гадоў. Яшчэ маладзейшыя былі браты Луцкевічы (15 і 12 гадоў), а Бурбісу было ўсяго 11 гадоў. Трохі замала для кіраваньня партыйнай працай.

Вось жа, Пануцэвіч відавочна памыліўся. Насамрэч, В. Іваноўскі толькі ў 1899 г. скончыў гімназію і ўвосень таго году прыбыў у Пецярбург, дзе пачаў навучаньне ў Тэхналягічным інстытуце. Адначасна ён распачаў дзейнасьць на ніве беларускага нацыянальнага адраджэньня. З гэтай мэтай сярод пецярбурскіх студэнтаў рэвалюцыйнай і сацыялістычнай арыентацыі ён стварыў беларускі гурток, які не пазьней за 1901/1902 акадэмічны год прыняў назву Беларускай рэвалюцыйнай партыі. У ліку іншых ён далучыў да супрацы студэнтаў Тэхналягічнага інстытуту Антона Некандзу–Трэпку, Лявона Малецкага, Генрыка і Францішка Ўмястоўскіх, а таксама дзеячоў пецярбурскай арганізацыі ППС — Мечыслава Міхаловіча і Рамуальда Мілера. Да гэтай групы належаў Бурбіс — тагачасны вучань віленскай гімназіі[20], уцягнуты, напэўна, Алёйзіяй Пашкевіч (Цёткай), якая даўно была ў кантакце з Іваноўскім[21]. Увосень 1902 г. у кола дзеячоў БРП уліліся браты Луцкевічы, якія прыехалі вучыцца ў Пецярбург. Тут жа апынулася Пашкевіч, а таксама — на кароткі час — натхнёны ёй Фэлікс Стацкевіч[22].

Прынятая назва "рэвалюцыйнай партыі" была, можа быць, занадта прэтэнцыёзнай з гледзішча яе тагачаснай дзейнасьці, тым ня менш яна выражала аптымізм Іваноўскага што да пэрспэктываў гэтага руху. Пра гэта сьведчыць цікавы факт, што ўжо вясной 1902 г. вядучыя дзеячы БРП зьбіраліся неўзабаве склікаць свой партыйны зьезд. Гэтае пытаньне разглядалася ў чэрвені 1902 г. на VI Зьезьдзе ППС, які, як сьведчыць прынятая яго ўдзельнікамі адмысловая "беларуская рэзалюцыя", даручыў выканаўчаму камітэту паслаць сваіх дэлегатаў на беларускі зьезд, каб "выказаць ім сымпатыю і пажаданьні імкнуцца да незалежнасьці і фэдэрацыйных стасункаў з намі". Адначасна рэзалюцыя

[17] Тамсама, с. 72; Pobóg–Malinowski W. Najnowsza historia polityczna Polski. T. II. Londyn, 1967. S. 335; Wajner M. Do historii PPS na Litwie // Niepodległość, 1937. T. XV. S. 329.

[18] Panucewicz W. Odrodzenie Białorusi i jej wspólczesne perspektywy // Pamiętnik Wileński. Polska Fundacja Kulturalna. Londyn, 1972. S. 334.

[19] Станкевіч А. Тамсама, с. 69. — Ю.Т.

[20] А. Луцкевіч пісаў (БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. захав. 267), што А. Бурбіс вучыўся ў гімназіі, а Ф. Стацкевіч ува ўспамінах "Зь мінуўшчыны беларускага руху" (Беларускі летапіс. 1937. № 6—7. С. 133) сцьвярджаў, што ён быў вучнем рэальнай вучэльні. — *А.С.*

[21] Тамсама, с. 74; Кайрыс С. З маіх успамінаў пра Цётку // Конадні. 1954. № 2. С. 68—69. — *Ю.Т.*

Гэтыя ўспаміны друкаваліся таксама ў: На суд гісторыі. Успаміны, дыялогі. Мінск, 1994; Цётка. Творы. Мінск, 2001. — *А.С.*

[22] Стацкевіч Ф. З маіх успамінаў. Аўтарскі рукапіс, бяз даты. — *Ю.Т.*

Тэкст Ф. Стацкевіча "З маіх успамінаў" з прадмоваю В. Адамчыка надрукаваны ў: ЛіМ. 7.08.1990. На жаль, у публікацыі, як і ў гэтым артыкуле, не паведамлена, дзе захоўваецца арыгінал гэтага тэксту. Апроч таго, Ф. Стацкевіч ёсьць аўтарам "Успамінаў", рукапіс якіх знаходзіцца ў БДАМЛМ: Ф. 55/4. Воп. 1, адз. захав. 1. — *А.С.*

сьцьвярджала, што “ППС пакідае за сабой права ўзьдзейнічаць на беларускі народ даступнымі ёй сродкамі, якія не супярэчаць прынцыпам і інтарэсам Беларускай сацыялістычнай арганізацыі”[23].

Дэлегаты ППС, аднак, не займелі магчымасьці прадставіць гэтую пазыцыю на зьезьдзе БРП, бо гэты зьезд не адбыўся. Аднак праект скліканьня гэтага зьезду выклікаў згаданую рэзалюцыю, якая ў выніку стала важным дакумэнтам, які сьведчыў пра арганізацыйную і ідэйную незалежнасьць БРП ад ППС. Інструкцыя для пэпэсаўскіх дэлегатаў, якая ўтрымлівала палітычныя пажаданьні (незалежнасьць, фэдэрацыя), гучала б іначай у выпадку, калі б БРП узьнікла з ініцыятывы ППС як яе аддзяленьне, на што паказвала б выказваньне Пануцэвіча.

Істотнае значэньне для пацьверджаньня гэтай ацэнкі мае другая частка цытаванай рэзалюцыі, якая паказвае, што ППС ня мела намеру выпускаць з рук беларускі “вучастак”, ні дзяліцца сваім уплывам зь беларускай саюзьніцай. У гэтым выпадку запэўненьне VI зьезду ППС у павазе да пазыцыі і інтарэсаў беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі было дэклярацыяй, якая ні ў чым не ўціскала інтарэсаў ППС, бо арганізацыйны і матэрыяльны патэнцыял дзеяньня абедзьвюх партыяў быў непараўнальны. Гэта красамоўна адлюстроўвае той факт, што толькі летам 1902 г. Іваноўскі пачаў працу, каб зарабіць грошы для набыцьця памнажальнага апарату для выданьняў БРП. Вось жа, гэтая арганізацыя, пэўна, была вельмі слабой. Аднак цяжка было прадбачыць, як пойдзе яе далейшая дзейнасьць. У гэтай сытуацыі пастанова VI зьезду ППС аб выданьні агітацыйнай літаратуры на беларускай мове была задумана як сродак утрымаць у сваіх руках ініцыятыву ў прапагандысцкай дзейнасьці ў Беларусі.

Першым вядомым сёньня дакумэнтам БПР была гектаграфічная адозва “Да інтэлігенцыі”, выдадзеная ў Пецярбургу ўвосень 1902 г., якая заклікала да стварэньня граматыкі беларускай мовы, літаратуры, краязнаўства і айчыннай гісторыі, а таксама да разьвіцьця выдавецкай дзейнасьці ў гэтай сфэры[24]. Такім чынам, гэта была тыповая праграма культурна–асьветнай дзейнасьці, якая, аднак, не вычэрпвала ўсіх праграмных намераў БРП. Пра гэта сьведчыць выдадзены ў апошнія дні 1902 г. орган гэтай партыі “Свабода”, у якой знаходзіліся характэрныя для сацыялістычных партыяў ідэі рабоча–сялянскай салідарнасьці і змаганьня супраць царскага дэспатызму[25]. Аднак у выніку зьнішчэньня амаль усяго накладу “Свабода” не была распаўсюджаная, у зьвязку з чым адозва “Да інтэлігенцыі” заставалася адзіным дакумэнтам, на падставе якога ППС фармавала сваё стаўленьне да БРП.

У лютым 1903 г. гэтае стаўленьне на бачынах “Przedświtu” выказаў вядучы дзяяч ППС Вітальд Ёдка–Наркевіч, які пасьля запэўненьня ў гатоўнасьці ППС да судзеяньня ў працэсе ператварэньня беларускага народу ў нацыю з акрэсьленым характарам, г.зн. зь літаратурнай мовай, пісьменствам, інтэлігенцыяй, школьніцтвам і г.д., пісаў наступнае:

> Аднак калі мы поўнасьцю прызнаем права кожнага народу на разьвіцьцё і самастойнасьць, то з гэтага зусім не вынікае, што мы павінны некрытычна разглядаць шанцы падобнага разьвіцьця. Дык што датычыць беларусаў, то трэба прызнаць, што пэрспэктывы ператварэньня гэтага народу ў нацыю прынамсі ў сёньняшніх палітычных варунках вельмі малыя. (...) Ці будзе беларускі народ шчасьлівы, калі ператворыцца ў беларускую нацыю? Адказ вельмі лёгкі. Ці польскі, французскі, нямецкі народ мае ўсё, што яму трэба? Відавочна, што не. Таму сапраўдны беларускі патрыёт ня можа абмежавацца зьбіраньнем народных казак, сьпеваў і замоў, дасьледаваньнем

[23] Матэрыялы VI зьезду ППС (Беларуская пастанова), ЦА ЦК ПАРП, 305/III/1. Справа. 2. В. 36—40.

[24] Odezwa “Do inteligencji” // Przedświt. 1903. № 2. S. 53—54. — *Ю.Т.*

[25] Гл. арт. “Па сьлядох «Свабоды»” ў гэтай кнізе. С. 17—19. — *Рэд.*

граматыкі, але павінен займацца разьвіцьцём сьвядомасьці гэтага народу, тлумачыць яму, што яго эксплюатуюць і ўціскаюць, і ствараць зь яго адну вялікую палітычную сілу, якая б здолела заваяваць сабе лепшую будучыню. Мы зусім не пярэчым, што нацыі, якая мае ўласную інтэлігенцыю, жывецца лепей, чым народу, які стаіць на ўзроўні беларускага народу, але пачатак грамадзкай дзейнасьці з стварэньня гэтай інтэлігенцыі сярод народу, які ня мае самых асноўных людзкіх правоў і стаіць на гэтак нізкім узроўні культуры, як беларускі народ, было б будаваньнем замку на пяску. А калі цяпер зьвярнуць увагу на тое, што пашырэньне грамадзкай сьвядомасьці сярод карэннага беларускага насельніцтва павінна адбывацца на беларускай мове, што вымагае як дасканалых ведаў самой мовы, так і стварэньня ўсёй літаратуры — брашур, кніжак, часопісаў, — то мы прыйдзем да пераканаsuccessньня, што такая дзейнасьць, якую рэкамэндуем мы (г.зн. выданьне агітацыйнай літаратуры на беларускай мове. — *Ю.Т.*), будзе больш плённай з нацыянальнага пункту гледжаньня, чымся праца, прапанаваная аўтарамі адозвы. Сацыялістычную брашуру, умела напісаную, чытаюць тысячы, часам дзясяткі і сотні тысяч людзей, адначасова ўпэўніваючыся ў веданьні роднай мовы, тады як збор этнаграфічных дасьледаваньняў нават у культурных краінах разыходзіцца часам толькі ў дзясятках асобнікаў. Таму рэвалюцыянэр, які працуе для народу, тым самым спрычыняецца да стварэньня матэрыялу для будучай нацыі[26].

Важным чыньнікам, які ўзмацняў гэтую аргумэнтацыю ППС, была “Гутарка” ды іншыя лёнданскія брашуры, якія ад пачатку 1903 г. пачалі трапляць у Беларусь і ў Пецярбург. Яны рабілі вялікае ўражаньне на беларускіх дзяячоў, якія ацэньвалі іх як канкрэтны довад інтэрнацыяналістычных намераў ППС. Крытыка “Przedświtu”, падтрыманая выдавецкімі высілкамі ППС, у вялікай ступені паўплывала на дыфэрэнцыяцыю і раскол у беларускім асяродзьдзі ў Пецярбургу, што ў выніку прывяло да заняпаду “асьветнай” БРП і стварэньня Іванам Луцкевічам “рэвалюцыйнай” Грамады. Гэта была не адзіная прычына. Важную ролю ў гэтым адыгралі таксама асабістыя дачыненьні між вядучымі пецярбурскімі дзяячамі. Браты Луцкевічы, маючы за плячыма пэўны досьвед арганізацыйнай працы ў Менску, прэтэндавалі на вядучую ролю ў беларускім руху ў Пецярбургу, што мусіла прывесьці да канфлікту з Іваноўскім — фактычным стваральнікам гэтага руху. У выніку дарогі гэтых дзяячоў на пэўны час разышліся, аднак гэта здарылася не ў канцы 1902 г., пра што сьведчыць той факт, што яшчэ ў апошнія дні сьнежня 1902 г. была выдадзеная “Свабода” як орган БРП з датай 1903 г.[27].

Раскол у кіраўнічай тройцы адбыўся, напэўна, на пачатку 1903 г. Ад таго часу Іваноўскі ўласнымі сіламі ажыцьцяўляў задачы, вылучаныя ў адозьве “Да інтэлігенцыі”, цяпер пад шыльдай Круга беларускай народнай прасьветы, засяроджваючыся галоўным чынам на выдавецкай дзейнасьці. Луцкевічы ж прыступілі да стварэньня новай арганізацыі — Беларускай рэвалюцыйнай грамады. Праз гады пасьля гэтага Іваноўскі лічыў за лепшае не ўспамінаць гэтых падзеяў, Луцкевіч жа колькі разоў вяртаўся да іх, намагаючыся давесьці, што падваліны беларускага руху ў Пецярбургу былі закладзеныя Іванам Луцкевічам. Аднак гэтаму супярэчыла заснаваная Іваноўскім БРП, таму Луцкевіч яе проста ігнараваў, а выдадзеныя ёй публікацыі прыпісваў альбо Кругу беларускай народнай прасьветы (адозва “Да інтэлігенцыі”), альбо Беларускай рэвалюцыйнай грамадзе (“Свабода”)[28].

Калі ўзьнікла БРГ? Пададзеныя напачатку зьвесткі Луцкевіча (зіма 1902/1903, восень 1903 г., канец 1903 г.) паказваюць, што ён сам як адзін зь яе стваральнікаў ня мог дакладна вызначыць гэтага. У любым выпадку гэта было не ў 1902 г. Напэўна, на пачатку 1903 г. Іван Луцкевіч прыступіў да яе арганізацыі ў Пецярбургу, аднак у канцы кра-

[26] Wroń. (Jodko–Narkiewicz W.) Z powodu odezwy białoruskiej // Przedświt. 1903. № 2. S. 54—57.

[27] Туронак Ю. Тамсама.

[28] Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў... С. 9 і 16; Народная справа. 1926. 21 верасьня. № 20. С. 3.

савіка трапіў у турму на колькі месяцаў, што выклікала адтэрміноўку арганізацыйных дзеяньняў. Падаецца, што за найбольш праўдападобную дату стварэньня БРГ можна прыняць восень 1903 г., бо ўжо ў лістападзе і сьнежні ў крыніцах ППС зноў зьяўляецца інфармацыя аб існаваньні беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі[29].

Цяжка з пэўнасьцю сказаць, ці разьлічвалі Луцкевічы, пачынаючы стварэньне БРГ, на падтрымку ППС. Калі гэта было так, то неўзабаве ім давялося расчаравацца, бо ўжо ў чэрвені 1903 г. канфэрэнцыя РЦК ППС у Вільні пастанавіла спыніць выданьне пад шыльдай ППС агітацыйнай літаратуры на беларускай мове[30]. Падаецца, што гэта было выклікана не меркаваньнямі ляяльнасьці да беларускай партыі, якія абумоўлівалі неўмяшаньне ў яе сфэру дзейнасьці, бо ў чэрвені 1903 г. БПР ужо не існавала, а БРГ яшчэ не была створаная. На гэта паказвае таксама пацьверджаны Менскай канфэрэнцыяй ЦРК (сьнежань 1903 г.) прынцып працягваць дзейнасьць ППС сярод беларускага насельніцтва[31]. Як сьведчыць пратакол Віленскай канфэрэнцыі, гэтая важная пастанова была прынятая на прапанову Пілсудзкага, на думку якога беларускі народ ня быў схільны карыстацца выданьнямі на яго роднай мове. Тым самым пераканаўчая аргумэнтацыя Ёдкі–Наркевіча губляла дагэтулешні грунт, а БРГ заставалася без прапагандысцкай літаратуры, за выняткам ужо выдадзеных “Гутаркі” і іншых лёнданскіх брашур, якія яна атрымлівала за плату і ў абмежаваных колькасьцях[32].

Стаўленьне ППС да БРГ, як і ў 1902 г. да БРП, фармавалася пад уплывам двух чыньнікаў. Адным зь іх была мабілізацыя беларускага народу на змаганьне з царызмам, а другім, нягледзячы на афіцыйнае адпрэчаньне гэтага, — непрыхільнае стаўленьне ППС, ува ўсякім выпадку, вядучых чальцоў яе кіраўніцтва, да беларускага нацыянальнага адраджэньня, рэалізацыя якога адкладалася на час пасьля зрыненьня царызму[33]. У гэтым апошнім выпадку паміж абедзьвюма партыямі выявілася прынцыповая супярэчнасьць: непрызнаньне з боку ППС беларускай нацыянальнасьці ў 1903 г. ставіла пад сумнеў канструктыўнае разьвязаньне беларускага нацыянальнага пытаньня таксама і па меркаваным зрыненьні царызму.

У беспасярэдняй сувязі з гэтым асновасяжным пытаньнем была справа будучага палітычнага статусу літоўска–беларускіх земляў. Абедзьве партыі ў прынцыпе былі згодныя, што Літва і Беларусь павінны скласьці асобную аўтаномную палітычную адзінку ў рамках расейскай дзяржавы з краёвым соймам у Вільні. Але гэта была часовая, а не канчатковая праграма. У далейшай пэрспэктыве, у кантэксьце імкненьня ППС да адбудовы незалежнай польскай дзяржавы, адкрывалася іншае пытаньне, а менавіта: якая канцэпцыя фэдэрацыі сасьпее ў БРГ — з Польшчай ці з Расеяй? У сьнежні 1903 г. ППС атрымала непамысную ў гэтай справе інфармацыю, бо ў кагадзе распрацаванай праграме БРГ (*notabene*: распрацаванай самастойна, без кантакту з ППС) пастулят фэдэрацыі з Польшчай адсутнічаў[34]. Адсюль у кіраўніцтве ППС узьнікалі абгрунтаваныя асьцярогі, што БРГ аддае перавагу фэдэрацыйнаму зьвязу з рэспубліканскай Расеяй, што, зрэшты, адпавядала рэчаіснасьці. Таму пры такім раскладзе беларускія дзеячы спадзяваліся атрымаць больш эфэктыўную процівагу моцным польскім палітычным, эканамічным і культурным уплывам у Беларусі. ППС таксама правільна ацэньвала пазыцыю БРГ у аграрным пытаньні, якая эвалюцыянавала ў кірунку аслабленьня пазыцыяў польскіх земляўласьнікаў у Беларусі.

[29] Walka. 1903, listopad. № 3. S. 5; Пратакол Менскай канфэрэнцыі ЦРК ППС ад 16—17.12.1903 г., ЦА ЦК ПАРП 305/III/3, справа 3.

[30] Справаздача ЦРК ППС ад чэрвеня 1903 г. // Niepodległość. 1939. T. XX. S. 111.

[31] Пратакол Менскай канфэрэнцыі ЦРК ППС.

[32] Тамсама.

[33] Nasze stanowisko na Litwie // Walka. 1903, listopad. № 3. S. 5.

[34] Пратакол Менскай канфэрэнцыі ЦРК ППС... (Канфэрэнцыя адбылася ў сьнежні 1903).

Пры гэтым стане рэчаў стаўленьне ППС да БРГ было стрыманым і чакальным, наступствам чаго было нежаданьне падтрымліваць такога няпэўнага саюзьніка. Гэтая акалічнасьць, як і раскол у зародкавым беларускім руху, а таксама часовая адсутнасьць шырокай грамадзкай падтрымкі абумовілі мізэрныя вынікі дзейнасьці БРГ у першы год яе існаваньня. Па сутнасьці, апроч свайго першага зьезду (сьнежань 1903 г.) і праграмы, пра якую дакладна не вядома, ці яна была апублікаваная, БРГ не пакінула дакумэнтальных сьлядоў свайго існаваньня ў выглядзе самастойна выдадзенай адозвы ці іншай публікацыі[35]. У літаратуры таксама адсутнічаюць якія–колечы згадкі пра іншыя акцыі БРГ. Яна таксама не даслала сваіх дэлегатаў на канфэрэнцыю апазыцыйных і рэвалюцыйных партыяў расейскай дзяржавы, якая адбылася ў верасьні 1904 г. у Парыжы[36]. Таму можна пагадзіцца з ацэнкай некаторых гісторыкаў, што БРГ у той час больш нагадвала інтэлігенцкі клюб, чымся палітычную партыю.

Рост актыўнасьці беларускага рэвалюцыйнага руху адзначаецца толькі пачынаючы з восені 1904 г., на што паўплывала як ажыўленьне рэвалюцыйных настрояў у Беларусі, так і зьмены ў гэтым руху, якія былі зьвязаныя з узьнікненьнем Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). На жаль, таксама і гэтае пытаньне не пазбаўленае супярэчнасьцяў. Як было паказана на пачатку, Луцкевіч сьцьвярджаў, што гэта адбылося альбо ў канцы 1903 г., альбо ў канцы 1905 г., хаця Бурбіс, а ўсьлед за ім і сучасныя гісторыкі, трымаецца думкі, што ператварэньне БРГ у БСГ адбылося на яе першым зьезьдзе ў канцы 1903 г. Зьвернем увагу, аднак, што абедзьве згаданыя антываенныя адозвы, зь якіх першая была выдадзена ў сакавіку, а другая — у чэрвені ці ліпені 1904 г., былі падпісаныя яшчэ БРГ, а не БСГ[37]. Таксама запрашэньне на Парыскую канфэрэнцыю было скіраванае да БРГ, а не БСГ[38]. Назва БСГ упершыню зьявілася на дэклярацыях Парыскай канфэрэнцыі, да якіх, ужо пасьля гэтай канфэрэнцыі, далучылася БСГ[39]. Гэта, напэўна, адбылося ў кастрычніку 1904 г., пра што мы можам меркаваць на падставе ліста Ёдкі–Наркевіча ад 10 лістапада 1904 г., у якім ён паведамляў, што беларуская партыя зьмяніла сваю назву на БСГ[40].

Такім чынам, абапіраючыся не на суб'ектыўныя ўспаміны, а на дакумэнты, можна сьцьвердзіць, што БСГ узьнікла ані ў канцы 1903 г., ані ў канцы 1905 г. Пры гэтым я сьвядома ўнікаю азначэньняў накшталт "ператварэньне" ці "зьмена назвы". Той факт, што БСГ была створаная прыкладна ў кастрычніку 1904 г., ёсьць бясспрэчна інтрыгоўным, як інтрыгоўнай ёсьць таксама і тэндэнцыя Луцкевіча да зацямненьня гэтага факту[41]. Гэтыя акалічнасьці выклікаюць сумнеў у тым, ці было тое звычайнай зьменай назвы партыі. Ня выключана, што ў гэтым выпадку мы маем справу з БСГ як новай партыяй.

---

[35] У сакавіку 1904 г. зьявілася адозва "Таварышы!" на польскай, беларускай, літоўскай і латыскай мовах з подпісамі ППС, БРГ, а таксама літоўскай і латыскай сацыял–дэмакратычных партыяў, а ў сярэдзіне таго ж году — адозва "Браця мужыкі" на польскай і беларускай мовах, падпісаная ППС і БРГ. Абедзьве адозвы былі выдадзеныя ППС і зь яе ініцыятывы. Параўн.: Przedświt. 1904. № 3. S. 133—135 і 151; а таксама № 7. S. 305.

[36] Przedświt. 1904. № 10—12. S. 1.

[37] Параўн. тэксты адозваў "Таварышы!" і "Браця мужыкі" ў ЦА ЦК ПАРП, 305/III/36, справа 8.

[38] Przedświt. 1904. № 10—12. S. 1.

[39] Ibidem. S. 407—408.

[40] Ліст Ёдкі–Наркевіча ад 10.11.1904, ЦА ЦК ПАРП, 305/VII/49. Справа 2. Арк. № 688.

[41] Калі А. Луцкевіч сьвядома ігнараваў факт існаваньня БРП, дык, мусіць, ён не лічыў гэтую арганізацыю цалкам палітычнаю (зрэшты, адозва "Да інтэлігенцыі" сьведчыць пра яе культурніцкі ўхіл), што ж датычыць справы ператварэньня БРГ у БСГ, то Луцкевіч вяртаўся да яе ўва ўжо названай працы "Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля Сацыялістычнае) Грамады (Даты і факты)". Агулам трэба зацеміць, што Луцкевіч вельмі часта пакладаўся на памяць. Адсюль ягоныя памылкі ў цытаваньні паэ-

Пакідаючы адкрытым пытаньне аб падрабязных акалічнасьцях канца БРГ і пачатку БСГ, выпадае зьвярнуць увагу на адзін важны яго аспэкт. Вось жа, у адной з ранейшых сваіх публікацыяў Луцкевіч сьцьвярджаў, што існуючы ў перадрэвалюцыйныя гады (г.зн. перад 1905 г. — *Ю.Т.*) дыфэрэнцыяваны, двухкірункавы беларускі рух, г.зн. культурна–асьветны і рэвалюцыйны, у вырашальны момант рэвалюцыйнага ажыўленьня злучыўся ў адну плынь[42]. Хоць гэтае выказваньне ня ўтрымлівае больш падрабязных дэталяў, найперш прозьвішчаў, што ў варунках царскага рэжыму было зразумелае, не падлягае сумневу, што яно азначала новае наладжаньне супрацы паміж Іваноўскім і Луцкевічамі. Гэты факт меў вялікае значэньне для дзейнасьці БСГ. Аддаўшы ў яе распараджэньне свой выдавецкі досьвед і магчымасьці, Іваноўскі ў вялікай ступені спрычыніўся да таго, што БСГ пачала самастойную прапагандысцкую дзейнасьць. У выніку, толькі ў 1905 г. БСГ выдала больш за 20 адозваў на беларускай мове, на пачатку 1906 г. адкрыла ўласную друкарню ў Менску, а таксама спэцыяльнае выдавецтва “Грамада” ў Пецярбургу. Агульная выдавецка–прапагандысцкая прадукцыя БСГ ацэньвалася на сотні тысяч асобнікаў адозваў і брашур, распаўсюджаных у Беларусі[43]. У шырэйшым маштабе разгарнулася таксама страйкавая дзейнасьць БСГ, асабліва сярод земляробаў. Паводле ацэнкі Бурбіса, у той час адбылася радыкальная зьмена характару партыі, якая стала масавай арганізацыяй.

У гэтай сытуацыі, пачынаючы ад восені 1904 г., у ППС выяўляецца імкненьне навязаць супрацу з БСГ. Папярэдні кантакт ППС з БСГ, які абмяжоўваўся выданьнем супольных антываенных адозваў, пэпээсаўскія крыніцы ацэньвалі як часовую дамоўленасьць і прэлюдыю да гэтае супрацы[44]. Першым крокам у гэтым кірунку было далучэньне БСГ да рэзалюцыяў Парыскай канфэрэнцыі, якія прадугледжвалі стварэньне кааліцыі рэвалюцыйных партыяў, што дзейнічалі ў расейскай дзяржаве. Далейшым супольным крокам ППС і БСГ, зробленым на пачатку 1905 г. напярэдадні Жэнэўскай канфэрэнцыі (сакавік 1905 г.), было ўзгадненьне пазыцыяў у справе адасабленьня гістарычнай Літвы (Літвы і Беларусі) як аўтаномнага абшару расейскай дзяржавы з рэгіянальным соймам у Вільні[45]. Неўзабаве абедзьве партыі зрабілі шэраг супольных акцыяў, як, напрыклад, страйк работнікаў больніцы ў Новай Вялейцы (жнівень 1905 г.) ці ўсеагульны палітычны страйк у Вільні (сьнежань 1905 г.)[46]. ППС падтрымлівала таксама прапагандысцкую дзейнасьць БСГ, даючы для друку некаторых беларускіх адозваў свае друкарні.

Не падлягае сумневу, што ў часткі кіраўніцтва ППС у той час выяўляліся тэндэнцыі да пабудовы стасункаў і супрацы з БСГ на прынцыпе партнэрства і павагі да беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Аднак вызначальную ролю мелі тыя чальцы кіраўніцтва (Пілсудзкі, Пэрль), для якіх гэтая супраца была толькі пытаньнем тактыкі ў іх імкненьні да рэалізацыі палітыкі анэксіі. І хоць афіцыйныя дакумэнты ППС надалей абвяшчалі лёзунгі правоў усіх нацыянальнасьцяў Літвы і Беларусі[47], тым ня менш — як сьцьвярджае Анна Жарноўская — Пілсудзкі не прызнаваў роўнасьці Польшчы і гэтых нацыя-

тычных твораў і ў датах. Так, у 1921 г. ён пісаў пра спробу выдаць “падпольную «Свабоду»” (на цыклястылі)” у 1903 г. (А.Л. З–пад пылу архіваў // Наша Думка. 1921. 1 красавіка). І гэта больш–менш правільная дата, калі ўлічыць сьвяткаваньне “праваслаўных” Калядаў паводле старога (канец 1902 г.) і новага (пачатак 1903 г.) стыляў. Пазьней ён жа датаваў гэтую падзею 1905 годам. — *А.С.*

[42] Новина А. Белорусы // Формы национального движения… С. 392—393.

[43] Навіна А. На дарозі да новага жыцьця // Маладая Беларусь. Сшытак 1. Пецярбург, 1912. С. 21.

[44] Przedświt. 1903. № 10—12. S. 409.

[45] Przedświt. 1905. № 4—5. S. 176.

[46] Параўн.: Адозвы БСГ і ППС “Po zwycięstwo”, “За сваботу” і “Да ўсіх работнікаў і работніц Вялейскай бальніцы” // ЦА ЦК ПАРП, 305/III/36, справа 8, в. 48 і 63—64.

[47] Zadania proletariatu na Litwie i Białorusi // Walka. 24.3.1906. № 4. S. 2.

нальнасьцяў у правах на самавызначэньне[48]. Гэтыя тэндэнцыі перамаглі падчас першай расейскай рэвалюцыі, калі ў сьвятле растучых надзеяў на хуткае атрыманьне Польшчай незалежнасьці падыход да нацыянальнага пытаньня, як літоўскага, так і беларускага, атрымаў іншае, больш канкрэтнае вымярэньне. У такім кантэксьце ў гэтых колах польскіх сацыялістаў пастулявалася ўлучэньне Ковенскай, Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губэрняў у склад будучай польскай дзяржавы[49]. Гэта азначала імкненьне да падзелу Беларусі і анэксіі яе заходніх абшараў.

Пры такім стане рэчаў саюз ППС і БСГ быў магчымы толькі ў плашчыні барацьбы з царызмам. У іншых жа абсягах, з прычыны разьбежных у пэрспэктыве мэтаў, гэтая супраца была немагчымая, у зьвязку з чым ППС магла пакладацца толькі на ўласныя дзеяньні. Аднак яе магчымасьці беспасярэдняга ўзьдзеяньня на беларускі народ, асабліва вяскоўцаў, былі невялікія, і з тактычных меркаваньняў іх не выпадала ўжываць. Нягледзячы на гэта, ППС не адмаўлялася ад такога ўзьдзеяньня і шукала адпаведныя формы яго рэалізацыі. Можна меркаваць, што ўзьнікненьне БРГ паскорыла рэалізацыю гэтай задумы, на што паказвае зацікаўленасьць удзельнікаў Менскай канфэрэнцыі ЦРК (сьнежань 1903 г.) да існуючай у Варшаве т.зв. беларускай групы[50]. На базе гэтай групы ППС спрабавала стварыць падкантрольную ёй арганізацыю, якая публічна павінна была выступіць як паралельная БРГ/БСГ беларуская партыя. Летам 1904 г. гэтая група прыняла назву Сацыялістычнай партыі Белай Русі (СПБР), а яе дзеячамі былі маладыя пэпэсаўцы Мар'ян Фальскі, Францішак Завадзкі, браты Станіслаў і Казімер Трускоўскія, Браніслаў Шушкевіч ды іншыя. Усе яны паходзілі зь Беларусі, галоўным чынам зь Меншчыны і Гарадзеншчыны, ведалі беларускую мову і мелі за плячыма пэўны досьвед нелегальнай рэвалюцыйнай і асьветнай дзейнасьці[51].

Апроч Варшавы, Горадні і Менску, дзе засяроджваліся дзеячы ППС, якія выступалі пад шыльдай СПБР, гэтая арганізацыя ня мела іншых рэгіянальных асяродкаў, а адзіным яўным вынікам яе дзейнасьці былі колькі адозваў, выдадзеных у Варшаве на беларускай мове[52], якія пераважна распаўсюджваліся чальцамі БСГ[53]. Асноўнай задачай СПБР, такім чынам, была не канкурэнтная праца ў рэгіёнах, але супраца з БСГ, якая мела прывесьці да аб'яднаньня абедзьвюх партыяў[54], што ў выніку забясьпечыла б больш эфэктыўны ўплыў ППС на БСГ. З гэтай мэтай у канцы 1904 г. Фальскі распачаў перамовы з прадстаўнікамі БСГ, якія, аднак, скончыліся фіяска. Прычыну гэтай няўдачы Фальскі бачыў у тым, што СПБР стаяла на пазыцыі сацыялістычнай ідэалёгіі, БСГ ж не ішла на перагляд сваёй нацыяналістычнай пазыцыі[55]. Тым часам Луцкевіч ня бачыў паміж гэтымі партыямі прынцыповых разьбежнасьцяў у абсягу сацыяльнай ідэалёгіі, а абвінавачаньні СПБР на адрас БСГ тлумачыў "страхам перад будзімшыся тады *нацыянальным* пачуцьцем у беларускіх масах"[56].

---

[48] Żarnowska A. Geneza rozłamu w Polskiej Partii Socjalistycznej 1904—1906. Warszawa, 1965. S. 122—123.
[49] Тамсама.
[50] Пратакол Менскай канфэрэнцыі ЦРК ППС...
[51] Зь іх Фальскі супрацоўнічаў з Іваноўскім і Багушэўскім у выданьні беларускіх брашур і адозвы "Царская гаспадарка" ў Кракаве. Аднак гэта было перад стварэньнем СПБР. Параўн.: "Удзел М. Фальскага ў беларускім выдавецкім руху". С. 20—21 нашага выданьня. — *Рэд.*
[52] Першая адозва СПБР "З вайны" зьявілася ў кастрычніку 1904 г., пасьля — "Настаў час!" у лютым 1905 г., "Братцы мужыкі", "Прызыўныя!" і "Якая карысьць народу з выбарнага правіцельства" ў кастрычніку 1905 г. Параўн.: ЦА ЦК ПАРП, 305/II/42. Няпольскія ўлёткі.
[53] Луцкевіч А. За двадцаць пяць гадоў... С. 21.
[54] Бурбіс А. Тамсама, с. 7.
[55] Falski M. Fragmenty prac z zakresu oświaty 1900—1944. Studia Pedagogiczne. T. 31. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1974. S. 22—24.
[56] Луцкевіч А. За двадцаць пяць гадоў ... С. 21.

Справа СПБР як філіі ППС паказвае, што за пастуляваным ППС злучэньнем усіх сілаў пралетарыяту Літвы і Беларусі, г.зн. аб'яднаньнем польскай, беларускай, літоўскай і жыдоўскай сацыялістычных партыяў, хаваліся памкненьні ППС да гегемоніі над аб'яднанай краёвай сацыялістычнай арганізацыяй. Ясная рэч, што такое разьвязаньне не магло быць прынятае БСГ і Літоўскай сацыял–дэмакратычнай партыяй. Пры такім стане рэчаў скліканая вясной 1906 г. з ініцыятывы ППС канфэрэнцыя[57] ў справе аб'яднаньня гэтых партыяў скончылася няўдачай. Пытаньне непрыняцьця з боку ППС аграрнай праграмы БСГ, што ацэньваецца як галоўная прычына няўдачы тых перамоў[58], па сутнасьці мела толькі фармальнае значэньне. Гэта пацьвердзіў выдатны дзяяч ППС у Літве Мэнахім Вайнэр наступным выказваньнем:

> Мы таксама ня ведалі іх палітычных сілаў, на якія мы маглі б абапірацца. Мы заўсёды кантакталі з двума іх прадстаўнікамі, якія спэцыяльна для гэтага прыяжджалі ў Вільню і зь якіх адзін, калі я не памыляюся, зваўся Івноўскім, а другі Ўласавым. Прынцыповыя адрозьненьні ў пунктах глядах адразу паказалі, наколькі неактуальным ёсьць пытаньне злучэньня зь імі[59].

Такім чынам, ёсьць дастаткова падставаў для цьверджаньня, што, апроч малазначных дэклярацыяў і нерэгулярнага ўзаемадзеяньня, у 1902—1906 гадох супрацы паміж ППС і беларускім рэвалюцыйным рухам, прадстаўленым БРП, БРГ і БСГ, не было. Прычыны гэтай зьявы ацэньваюцца па–рознаму, галоўным чынам у залежнасьці ад стаўленьня да БСГ у кантэксьце беларускага пытаньня ўвогуле. Гэтак, калі Фальскі закідаў БСГ беларускі нацыяналізм[60], то Побуг–Маліноўскі бачыў у ёй хутка растучыя расейскія рэвалюцыйныя ўплывы[61]. Гэтай апошняй ацэнкі, аднак, не пацьвярджаюць савецкія аўтары, якія нярэдка абвінавачвалі БСГ у тым, што яна падпадала пад польскія ўплывы[62].

*Пераклад зроблены паводле:* Studia polsko–litewsko–białoruskie. Warszawa, 1988.

---

[57] Канфэрэнцыя БСГ адбылася 3—4 чэрвеня 1906 г. на кватэры Цёткі па вул. Хівінскай у Вільні. — *А.С.*

[58] I Zjazd Socjalno–Demokratycznej Partii Litwy (dawniej PPS na Litwie) // Walka. 12(25).7.1906. № 8. — *Ю.Т.*

Аб тым, што разыходжаньні ў аграрнай праграме былі галоўнаю перашкодаю на шляху аб'яднаньня ППС і БСГ, піша А. Луцкевіч. Аб'яднаньню ж БСГ і Літоўскай сацыял–дэмакратычнай партыі перашкаджала імкненьне апошняй уключыць у склад будучай літоўскай дзяржавы этнаграфічна беларускія часткі Віленскай і Гарадзенскай губэрняў. Гл.: А. Луцкевіч. За дваццаць пяць гадоў... Мінск, 1991. С. 34—36. — *А.С.*

[59] Wajner M. Op. cit. S. 340.

[60] Прыпісваць нацыяналізм беларускім (украінскім, літоўскім і г.д.) сацыялістам і выстаўляць сябе як інтэрнацыяналістаў — гэта ўстойлівы прыём у тактыцы ППС. Асабліва ахвотна гэтым прыёмам дзяячы партыі карысталіся ў 1920–х г. У гэтым сэнсе тактыка ППС нагадвала бальшавіцкую. — *А.С.*

[61] Pobóg–Malinowski W. Тамсама, с. 355.

[62] Большая советская энциклопедия. Т. IV. Москва, 1950. С. 529.

# Нежаданая рэспубліка

На працягу стагодзьдзяў расейскі імпэрыялізм імкнуўся авалодаць Беларусьсю і Украінай, безь якіх немагчымай была яго актыўная палітыка ў Эўропе. Пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай, асабліва пасьля паўстаньняў 1831 і 1863 г., пачалася плянавая русіфікацыя Беларусі, якая павінна была ўвекавечыць панаваньне Расеі ў гэтай краіне. Афіцыйна не прызнавалася беларуская нацыя і мова, што абумовіла забарону друку — гэтай перадумовы нацыянальнай сьвядомасьці. Аднак у 1904—1906 гадох, у выніку прайгранай вайны зь Японіяй і рэвалюцыі, царызм быў вымушаны лібэралізаваць сваю ўнутраную палітыку. І хаця надалей не прызнавалася беларуская нацыя і мова, усё ж былі скасаваныя абмежаваньні выдавецкай і культурнай дзейнасьці, што спрыяла росту нацыянальнай сьвядомасьці.

Гэтыя магчымасьці пасьпяхова выкарысталі дзеячы маладога беларускага нацыянальнага руху, які, нягледзячы на розныя яго недастаткі, напярэдадні першай сусьветнай вайны быў ужо заўважным грамадзкім фактарам. Не выпадкова да першай сусьветнай вайны асноўным напрамкам беларускай палітычнай думкі была арыентацыя на аўтаномію Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расеі.

У выніку ваенных падзеяў у верасьні 1915 г. Беларусь была падзелена: прыкладна 25% яе тэрыторыі акупавалі немцы, а другая, значна большая яе частка, заставалася пад уладай Расеі. На абшары сваёй акупацыі Нямеччына як першая вялікая дзяржава хутка прызнала асобнасьць беларускай нацыі і мовы, што стварыла падставу для разьвіцьця беларускага школьніцтва, выдавецкай дзейнасьці і іншых галін грамадзкага і культурнага жыцьця. На ўсходніх абшарах Беларусі падобныя магчымасьці ўзьніклі ў 1917 г., пасьля Лютаўскай рэвалюцыі. У сакавіку ў Менску паўстае Беларускі нацыянальны камітэт, у ліпені яго зьмяняе больш радыкальная Рада беларускіх партыяў і арганізацыяў, якая ў кастрычніку рэарганізуецца ў Вялікую беларускую раду як прэтэндэнта да вярхоўнага нацыянальнага прадстаўніцтва.

Аднак, нягледзячы на дэкляраваныя Лютаўскай рэвалюцыяй свабоды, мэты і дзейнасьць Рады ігнараваліся петраградзкім Тымчасовым урадам, які надалей стаяў на варце інтарэсаў “адзінай і непадзельнай” Расеі. Яго прэм’ер А. Керанскі ў адказ на высунуты Радай пастулят аўтаноміі Беларусі заявіў: “Россия — не этнографический музей!”

## Першы ўсебеларускі зьезд

Таму Вялікая беларуская рада спадзявалася, што ў дадзенай палітычнай сытуацыі больш рэальным чыньнікам вырашэньня пытаньня беларускай дзяржаўнасьці ёсьць нацыянальная праграма Леніна (самавызначэньне аж да аддзяленьня). Неўзабаве пасьля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў палове лістапада 1917 г. Рада выступіла з пастулятам заключыць мір зь Нямеччынай, аб’яднаць акупаваныя немцамі заходнебеларускія абшары і стварыць Беларускую дэмакратычную рэспубліку *як складовую частку савецкай Расеі*. Такім чынам, Рада не выказвала сэпаратысцкіх дзеяньняў, у чым яе вінавацяць беларускія савецкія гісторыкі.

У гэтых адносінах асаблівую цікавасьць прадстаўляе ўсебеларускі зьезд, які быў скліканы Вялікай беларускай радай і эсэраўскім Беларускім абласным камітэтам у сьнежні 1917 г. у Менску. Зьезд не закончыў сваёй работы і быў разагнаны салдатамі на падставе рашэньня старшыні Савету народных камісараў Заходняй вобласьці К. Ландэра. Гэтая акалічнасьць абумовіла наступны, нібыта лягічны, тэзіс усходніх і заходніх вучоных: калі зьезд быў разагнаны бальшавікамі, то гэта значыць, што ён быў антысавецкі, антыбальшавіцкі, з чаго ўжо просты вывад аб яго буржуазных, сэпаратысцкіх і незалежніцкіх імкненьнях.

Усё ж гэты тэзіс часам даводзілася абгрунтоўваць, з чым “сумленныя” дасьледчыкі

спраўляліся лёгка і даволі пасьпяхова. Вось прыклад з заходняга боку: у зборніку дакумэнтаў “За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі” (Лёндан, 1960), адрэдагаваным Радаславам Астроўскім (дарэчы, удзельнікам зьезду), прыводзіцца тэкст прынятага дэлегатамі першага пункту рэзалюцыі зьезду, як наступнае:

> I. Замацоўваючы сваё права на самавызначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй, і зацьвярджаючы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускай зямлі, для ўратаваньня роднага краю і захаваньня яго ад падзелу, I ўсебеларускі кангрэс пастанаўляе безадкладна ўтварыць із свайго складу орган краёвае ўлады, які часова становіцца на чале кіраўніцтва краем, уваходзячы ў зносіны з цэнтральнай уладай.

Так прадстаўлены тэкст рэзалюцыі павінен выклікаць уражаньне, што зьезд меў незалежніцкі і сэпаратысцкі характар, што на добры лад павінна апраўдаць рашэньне Ландэра як працIўніка незалежнай Беларусі.

А цяпер прыклад з усходняга боку. Вадзім Круталевіч у сваёй кніжцы “Рождение Белорусской Советской Республики” (Мінск, 1975. С. 134) так прадстаўляе цытаваную рэзалюцыю:

> ...съезд принял резолюцию о создании органа краевой власти «в лице Всебелорусского Совета крестьянских, рабочих и солдатских депутатов» и «республиканского строя». Краевому совету должна была перейти власть в Белоруссии. Такое решение означало непризнание существующей Советской власти в Западной области. И не только непризнание, но и узурпацию власти. Этим решением съезд противопоставил себя Октябрьской революции.

Дык жа, паводле Круталевіча, інакш і быць не магло, паколькі “на съезде господствовали мелкобуржуазные партии, не признававшие новой власти” (С. 128).

Перш чым выкажам свае заўвагі, прапануем цярпліваму чытачу поўны тэкст прынятага зьездам першага пункту рэзалюцыі з падкрэсьленымі аўтарам яе элемэнтамі, прапушчанымі Астроўскім і часткова Круталевічам:

> I. Закрепляя свое право на самоопределение, провозглашенное Российской Революцией, и утверждая демократический республиканский строй в пределах Белорусской земли, для спасения родного края и ограждения его от раздела *и отторжения от Российской демократической федеративной Республики*, I Всебелорусский съезд постановляет: немедленно образовать из своего состава орган краевой власти *в лице Всебелорусского Совета Крестьянских, Солдатских и Рабочих Депутатов*, который временно становится во главе управления краем, вступая в деловые отношения с Центральной властью, *ответственной перед Советом Рабочих, Солдатских и Крестьянских Депутатов* (Белорусская Рада. 1917. № 12).

Як бачым, зьезд паклікаў не буржуазны, а *савецкі* орган краёвай улады і выказаўся не за аддзяленьне, але *супраць аддзяленьня Беларусі ад РСФСР*. А паколькі гэты пункт рэзалюцыі быў прыняты аднагалосна, то вывад Круталевіча аб тым, што дробнабуржуазныя партыі, якія “господствовали” на зьезьдзе, не прызнавалі савецкай улады, зьяўляецца неабаснаваным. Згодныя з праграмай бальшавіцкай партыі былі таксама праекты іншых пунктаў рэзалюцыі зьезду, у тым ліку: патрабаваньне неадкладнай перадачы зямлі бяз выкупу працоўнаму сялянству, устанаўленьне народнага кантролю над прамысловасьцю і гандлем, вывад польскіх легіёнаў (генэрала Доўбар–Мусьніцкага[1]. — *Ю.Т.*) зь

---

[1] Доўбар–Мусьніцкі Юзаф (1867—1937) — польскі вайсковы дзяяч, генэрал. У 1917—1918 г. быў арганізатарам і камандуючым I Польскага корпусу ў Расеі. У пачатку 1918 г. пасьля спробы бальшавіцкіх уладаў раззброіць корпус яго камандаваньне не падпарадкавалася іх загадам, і на некаторы час палякі занялі шэраг населеных пунктаў ува Ўсходняй Беларусі. — *А.П.*

Беларусі і г.д. Асаблівую цікавасьць прадстаўляе праект рэзалюцыі аб дэлегаваньні прадстаўнікоў Беларусі на мірныя перамовы ў Берасьці, якія павінны былі змагацца за яе тэрытарыяльную цэласнасьць і неаддзяленьне ад савецкай Расеі. У сувязі з разгонам зьезду гэтыя пункты рэзалюцыі не маглі быць пастаўлены на галасаваньне.

Аб тым, што Ўсебеларускі зьезд ня быў антысавецкі, сэпаратысцкі і г.д., сьведчаць таксама іншыя акалічнасьці. Па–першае, дазвол і грошы на яго правядзеньне даў петраградзкі Народны камісарыят нацыянальнасьцяў, якім кіраваў Сталін. Па–другое, падчас работы зьезду старшыня яго прэзыдыюму Савіч зьвяртаўся па прамым провадзе да Сталіна з запытаньнямі і атрымоўваў яго адказы, што сьведчыць аб узаемных дзелавых адносінах (гл.: Белорусская Рада. 1917. № 10). І, урэшце, трэцяе важнае сьведчаньне: паведамляючы цэнтральныя ўлады ў Петраградзе аб разгоне Ўсебеларускага зьезду, Ландэр не хаваў, што зьезд выказаўся "в принципе за признание Советской власти" (гл.: Турук Ф. Белорусское движение. Москва, 1921. С. 108).

Гэтыя факты замоўчваліся Астроўскім і Круталевічам, каб даказаць тое, чаго не было. Прытым Астроўскі імкнуўся стварыць міт аб незалежніцкім характары Ўсебеларускага зьезду, а Круталевіч падпарадкоўваўся ідэалягічным патрабаваньням "застойнага" часу для апраўданьня расейскага шавінізму кіраўнікоў Заходняй вобласьці. У гэтых адносінах нічога не зьмяніла і перабудова, аб чым сьведчыць нядаўняе выступленьне І. Ігнаценкі[2] ў друку (Рэспубліка, якая не адбылася // Чырвоная змена. 22.06.1989). У сапраўднасьці зьезд быў разагнаны за яго імкненьне стварыць на беларускай зямлі свой, беларускі, орган савецкай улады, замест прэтэндуючых на яе чужых камісараў, якія надалей, напрыклад, Мураўёў і Керанскі, не прызнавалі беларускай нацыі і пасьлядоўна — яе права на самавызначэньне. Характэрна, што такое імкненьне зьезду Круталевіч назваў "узурпацыяй".

Такім чынам, сярод беларускіх палітычных дзеячоў, якія арыентаваліся на савецкую ўладу, у сьнежні 1917 г. узьнік першы крызіс недаверу да гэтае ўлады, паколькі ленінскім дэкларацыям не адпавядалі практычныя дзеяньні, якія нагадвалі старую імпэрскую палітыку. І памыляюцца тыя гісторыкі і публіцысты, якія лічаць, што разгон Усебеларускага зьезду быў рэзультатам валюнтарызму ці недысцыплінаванасьці бальшавіцкіх дзеячоў Заходняй вобласьці. Не інакш думалі і ў Петраградзе. Як пісала газэта "Революционная ставка"[3] (09.12.1917),

> наша партия никогда не стояла за разрушение создавшихся больших государственных организмов и создание мелких национальных республик. Наша партия в данном случае готова признать известные заслуги империализма (чытай — расейскага. — *Ю.Т.*), приведшего к созданию нового типа государства — наднационального государства.

Такую лінію нацыянальнай палітыкі неўзабаве пацьвердзілі мірныя перамовы ў Берасьці, падчас якіх беларускае пытаньне дэлегатамі Леніна ўвогуле ня ставілася.

Адмоўнае стаўленьне бальшавікоў да беларускай савецкай дзяржаўнасьці ў канцы 1917 і на пачатку 1918 г. садзейнічала росту незалежніцкай арыентацыі беларускіх палітычных дзеячоў, хаця значная, калі не пераважная, іх частка ўсё яшчэ аглядалася на Леніна і Сталіна.

## Беларуская Народная Рэспубліка

18 лютага 1918 г. нямецкая армія пачала чарговае наступленьне і ў кароткім часе

[2] Ігнаценка Іларыён (1919—2002) — беларускі гісторык, дасьледчык рэвалюцыйных падзеяў 1917 г. на тэрыторыі Беларусі. — *А.П.*

[3] "Революционная ставка" — бальшавіцкая газэта, орган Ваенна–рэвалюцыйнага камітэту пры Стаўцы вайсковага камандаваньня, з 19 сьнежня 1917 г. — Цэнтральнага камітэту дзесных арміяў і франтоў. Выдавалася штодзённа з канца лістапада 1917 г. па канец лютага 1918 г. у Магілёве. Рэдактарам газэты быў С. Забкоў. — *А.П.*

выйшла на лінію Дняпра, захапіўшы звыш 85% усёй тэрыторыі Беларусі. Нямецкую палітыку ў гэтым раёне вызначаў неўзабаве падпісаны Берасьцейскі трактат, згодна зь якім Беларусь трактавалася як частка Расеі і як своеасаблівы заклад пад кантрыбуцыю, якую ўрад РСФСР абавязваўся заплаціць Нямеччыне (6 млрд. рублёў у золаце).

Аднак, заняўшы Менск (25 лютага), нямецкая X армія сустрэла там пакліканы Ўсебеларускім зьездам орган краёвай улады, які выйшаў з падпольля і абвясьціў сябе часовым урадам (Народным сакратарыятам) Беларусі. Немцы аднесьліся да яго так, як да ўраду варожай дзяржавы. Праўда, Народны сакратарыят ня быў разагнаны, але была забароненая яго дзейнасьць, канфіскаваная каса, а зь яго сядзібы быў зьняты бел–чырвона–белы сьцяг. Неўзабаве пасьля гэтага інцыдэнту Народны сакратарыят паклаў камандуючаму X арміяй, генэралу Э. Фалькенгайну[4], мэмарыял, патрабуючы, між іншым, высьвятленьня яго стаўленьня да справы беларускай дзяржаўнасьці. Гэты крок меў важныя наступствы: хаця бэрлінскі ўрад надалей афіцыйна не прызнаваў Беларусі, камандаваньне акупацыйнай арміі, магчыма, на ўласную руку, дазволіла Народнаму сакратарыяту разьвіваць дзяржаўную дзейнасьць.

Мэты і напрамкі гэтай дзейнасьці прадстаўляла другая ўстаўная грамата Выканаўчага камітэту Рады Ўсебеларускага зьезду (09.03.1918 г.). Грамата зьмяшчала асноўныя прынцыпы канстытуцыі Беларусі, між іншым, скасаваньне прыватнай уласнасьці на зямлю і яе перадачу бяз выкупу тым, хто на ёй працуе. Грамата ўпершыню акрэсьліла назву дзяржавы як Беларускую Народную Рэспубліку, аднак абыходзіла маўчаньнем яе юрыдычны статус, не мяняючы такім чынам яе становішча як складовай часткі фэдэратыўнай Расеі. 18 сакавіка Рада Ўсебеларускага зьезду праклямуе сябе Радай БНР.

Урэшце, у ноч з 24 на 25 сакавіка Рада БНР прыняла трэцюю ўстаўную грамату, якая абвяшчала Беларусь незалежнай і вольнай дзяржавай і скідала “апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары”. Паводле Круталевіча, трэцяя грамата была прынята нязначнай большасьцю галасоў членаў Рады БНР, што сьведчыць аб усё яшчэ існаваўшай значнай апазыцыі ў адносінах да ідэалу незалежнай Беларусі. Дарэчы, нават цытаванае толькі што “ярмо” было царскага паходжаньня, а гэта значыць, што рэдактары граматы не адважыліся так фармуляваць сваё стаўленьне да рэвалюцыйнай Расеі. Такім чынам, можна меркаваць, што сымпатыі членаў Рады да новай Расеі ўсё яшчэ заставаліся значнымі.

Акт 25 сакавіка адлюстроўваў надзею Рады БНР на юрыдычнае прызнаньне Беларускай Народнай Рэспублікі ўрадам Нямеччыны і іншых дзяржаваў. Аднак і гэты крок не зьмяніў становішча бэрлінскіх уладаў. У адказ на ноту Народнага сакратарыяту канцлер Георг Гертлінг заявіў, што Нямеччына надалей разглядае Беларусь як частку Расеі і, паводле Берасьцейскага трактату, ня можа бяз згоды ўраду Леніна прызнаць незалежнасьць Беларусі. Безвыніковымі былі і іншыя захады Рады БНР у гэтай справе.

Чакаючы на зьмену міжнароднай каньюнктуры, непрызнаваная Бэрлінам Рада БНР карысталася дзейснай падтрымкай Фалькенгайна і зь яго ведама і дазволу пачала арганізоўваць свой мясцовы апарат улады. Неўзабаве немцы перадалі органам БНР ведамствы прамысловасьці, гандлю, асьветы, грамадзкай апекі і іншыя, якімі кіраваў Народны сакратарыят пад кантролем акупацыйных уладаў. 27 мая Фалькенгайн прыняў прадстаўнікоў Рады і ўраду БНР і заявіў, што іх дзейнасьць “неўзабаве дасьць Беларусі пазытыўныя рэзультаты”, што гэтымі дзячамі ўспрымалася як намёк на юрыдычнае прызнаньне БНР.

Важнай сфэрай практычнай дзейнасьці ўладаў БНР было школьніцтва і культура. Пры Народным сакратарыяце асьветы паўстала бюро для апрацоўкі школьных падручн-

[4] Фалькенгайн (Falkenhayn) Эрых фон (1861—1922), нямецкі вайсковы і дзяржаўны дзяяч, з 1918 г. камандаваў 10–й арміяй, што дысьлякавалася ў Беларусі. Іншы раз у літаратуры гэтае прозьвішча падаецца як Фалькенгайм. — *А.П.*

ікаў і таварыства “Прасьвета”, якое займалася іх выпускам. Былі арганізаваны курсы для настаўнікаў і школьная інспэкцыя, пашырана сетка пачатковых і сярэдніх школаў, у Менску ствараўся Пэдагагічны інстытут, пачалася падрыхтоўка да адкрыцьця беларускага ўнівэрсытэту, працаваў беларускі тэатар, Таварыства драмы і камэдыі і іншыя ўстановы культуры. Пад кантролем Народнага сакратарыяту выходзіла рэкордная да гэтай пары колькасьць беларускіх газэт і часопісаў (14). Беларуская мова ўпершыню стала дзяржаўнай.

Цікава заўважыць, што да кампэтэнцыі Народнага сакратарыяту належала таксама сфэра замежнай палітыкі. Зь яго ініцыятывы ўлетку 1918 г. нямецкае камандаваньне пачало перамовы з урадам РСФСР аб далучэньні да БНР задняпроўскіх абшараў, якія тады знаходзіліся пад расейскай адміністрацыяй. У гэтай самай справе, а таксама з мэтай прызнаньня БНР у Маскву езьдзіла беларуская надзвычайная камісія. Былі акрэдытаваны дыпляматычныя прадстаўнікі БНР у некалькіх краінах, а ў Кіеве дзейнічала Беларуская гандлёвая палата. Грамадзяне краіны пры выезьдзе за граніцу атрымоўвалі пашпарты, якія выдаваліся ад імя БНР.

Усё гэта сьведчыць, што ў 1918 годзе існавалі дзьве тактыкі нямецкай палітыкі ў адносінах да Беларусі: непрызнаваньне БНР у Бэрліне і адначасова яе тварэньне пад аховай X арміі. Магло б здавацца, што гэта была супярэчлівая палітыка, аднак у сапраўднасьці яна адлюстроўвала эвалюцыю нямецкіх поглядаў на беларускае пытаньне. Займаючы 25 лютага Менск, немцы былі перакананыя аб няздольнасьці беларусаў да дзяржаўнага будаўніцтва. Аднак яны сустрэлі тут дынамічны беларускі цэнтар, дзейнасьць якога хутка вызваляла дрымучыя ў народзе нацыянальныя сілы. Гэта ўплывала на рост зацікаўленьня патэнцыяльнымі магчымасьцямі беларускага руху. Больш недаверліва ставіўся да яго афіцыйны Бэрлін, затое дасьведчаньні мясцовай акупацыйнай адміністрацыі былі больш аптымістычнымі[5].

Стварэньне незалежнай беларускай дзяржавы адлюстроўвала надзею Фалькенгайна на ліквідацыю небясьпечнага расейскага кліну, які, згодна з пастановамі Берасьцейскага міру, прадстаўляла Беларусь, і які разьдзяляў наваствораныя дзяржавы — з аднаго боку Украіну і з другога — Літву, Латвію і Эстонію. У кантэксьце гэтага палітычнага імкненьня хутка зьмяншалася значэньне тых фактараў, якія раней выклікалі абыякавасьць немцаў да беларускага пытаньня. Прафэсар Бэрлінскага ўнівэрсытэту Фрыц Куршман, які летам 1918 г. адведаў Беларусь і пазнаёміўся зь існуючым становішчам, не пярэчыў, што беларускі патэнцыял яшчэ слабы, але адначасова бачыў хуткі яго рост і дасьпяваньне, а таксама ўспрыманьне насельніцтвам. Бачыў ён і недастаткі Рады БНР, аднак і ў гэтым выпадку выказваў перакананьне, што “калі беларусы ўжо сядзяць у сядле, то навучацца і ехаць” (Deutsche Rundschau. B. 176. 1918. S. 274, 292). Акрамя таго, немцы ўсьведамлялі карысьць, якую давала БНР у іх цэлай усходняй палітыцы. Такім чынам, падтрымка Рады

---

[5] Характэрна, што ў даведцы аб дзейнасьці Народнага сакратарыяту БНР за восень 1918 году, г.зн. на час апошніх месяцаў нямецкай акупацыі, адзначалася:

> Усталяваўшы ўладу, Германскае камандаваньне зьменшыла правы Народнага сакратарыяту, але ў той жа час Германскае камандаваньне лічылася і лічыцца да гэтае пары з Народным сакратарыятам і (Радай) як зь вярхоўным органам Беларусі, неафіцыйна прызнаючы за ім усе правы, але афіцыйна, на падставе Берасьцейскае дамовы і права акупацыі, трымаючы ўсе галіны кіраваньня ў вайсковых руках. У апошнія месяцы працяглыя перамовы з Германскім камандаваньнем прывялі да таго, што гандаль, прамысловасьць (Гандлёвай палаты), асьвета, пошта, зносіны пакрысе пераходзяць у рукі беларускіх арганізацыяў. Мала таго — Германскае камандаваньне запатрабавала, каб Народны сакратарыят прызначыў сваіх дарадцаў (асаблівыя пасады нагляду) у літоўскую частку Беларусі (Ваўкавыск і інш.), а таксама і ў украінскую частку Беларусі (Брэст–Літоўск, Гомель і інш.).

*Крыніца:* Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. Вільня—Нью–Ёрк—Менск—Прага, 1998. С. 268. — *А.П.*

БНР і Народнага сакратарыяту выражала імкненьне акупацыйнай адміністрацыі падрыхтаваць гэтыя органы да пераняцьця ў спрыяльных умовах рэальнай улады ў Беларусі. Паводле Куршмана, Народны сакратарыят “быў рэзэрвным урадам, фармальнае прызнаньне якога залежала перш за ўсё ад выніку вайны”.

Далейшы лёс БНР перакрэсьліла паражэньне Нямеччыны на Заходнім фронце. Гэтая акалічнасьць спрычынілася да заключэньня 27.08.1918 г. пагадненьня з савецкай Расеяй, якое прадугледжвала датэрміновую эвакуацыю нямецкіх войск з раёнаў паміж Дняпром і Бярэзінай. Працэс эвакуацыі прысьпешыла рэвалюцыя ў Нямеччыне і яе капітуляцыя ў лістападзе 1918 г. На пачатку сьнежня немцы перадалі Менск савецкім уладам, а Рада БНР і яе ўрад эвакуаваліся ў Горадню, дзе працягвалі дзейнічаць да вясны 1919 г., г.зн. да адступленьня нямецкіх войск з гэтага абшару.

## Савецкае Вялікае Княства Літоўскае

У той час, калі на акупаванай немцамі Беларусі разьвівалася дзяржаўнае будаўніцтва, савецкія ўлады не выказвалі ніякага зацікаўленьня стварэньнем беларускай савецкай дзяржавы як процівагі для БНР. Гэтай ацэнкі не мяняе дзейнасьць створанага ад пачатку 1918 г. пры петраградзкім народным камісарыяце яго аддзелу — Камісарыяту да спраў беларусаў, т.зв. Белнацкому, які быў пакліканы галоўным чынам для палітычнай агітацыі сярод насельніцтва задняпроўскіх абшараў Беларусі і беларусаў–уцекачоў у Расеі.

Адным з найважнейшых напрамкаў агітацыйнай дзейнасьці Белнацкому было імкненьне дыскрэдытаваць маладую беларускую дзяржаву, якая паўставала на тэрыторыі, непадкантрольнай уладам РСФСР. У гэтай дзейнасьці асабліва вызначыўся З. Жылуновіч, які мог шальмаваць БНР, пераконваць уцекачоў у тым, што “спасение Белоруссии — в единстве с русским народом”, аднак акрамя сваіх несумненна шчырых пажаданьняў ня мог сказаць нічога пра тое, як вырашаецца савецкімі ўладамі пытаньне беларускай дзяржаўнасьці.

А гэтае пытаньне па–ранейшаму ігнаравалася на ўсіх узроўнях савецкай улады. Восеньню 1918 г., калі Куршман з сымпатыяй выказваўся ў бэрлінскім часопісе аб нацыянальным і дзяржаўным адраджэньні Беларусі, сакратар Паўночна–заходняга абласнога камітэту РКП(б) В. Кнорын заяўляў: “Мы считаем, что белорусы не являются нацией, и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты” (Звезда. 1918. 6 октября). З гэтых пазыцыяў эвакуаваныя ў лютым у Смаленск кіраўнікі Заходняй вобласьці змагаліся зь Белнацкомам, між іншым, ліквідавалі яго аддзелы ў Смаленску і Віцебску. Ня лепш было і ў сталіцах — Петраградзе і Маскве, дзе пытаньне стварэньня БССР не разглядалася цэнтральнымі партыйнымі і дзяржаўнымі органамі амаль да канца 1918 г. Факт, што ў гэтым часе Беларусь была пад нямецкай акупацыяй, не выясьняе справы да канца, паколькі гэтая акупацыя лічылася тымчасовай.

Становішча Жылуновіча было жалюгодным. Ні яго спасылкі на дэкларацыі Леніна, ні верная служба савецкай уладзе, улучна з аплёўваньнем БНР, ня здолелі палепшыць стаўленьня вярхоўных органаў РСФСР да пытаньня беларускай савецкай дзяржаўнасьці. Пасьля V Усерасейскага зьезду саветаў (ліпень 1918) і прыняцьця канстытуцыі РСФСР Белнацком выступае з больш памяркоўным праектам: калі ўжо немагчыма дабіцца прызнаньня БССР, то ці ня можна было б стварыць “інтэрнацыянальную” тэрытарыяльную адзінку шляхам перайменаваньня Заходняй вобласьці ў Беларуска–літоўскую, накшталт савецкага Вялікага Княства Літоўскага? Характэрная і аргумэнтацыя Белнацкому, якая зыходзіла не з жыцьцёвых інтарэсаў беларускай нацыі, але з таго, што такім чынам лягчэй будзе паралізаваць дзеяньні незалежнікаў, калі Чырвоная Армія будзе вяртацца на Беларусь. Аднак у верасьні праект Белнацкому быў адхілены III зьездам саветаў Заходняй вобласьці, пасьля чаго ў кастрычніку гэтае яго рашэньне было зацьверджана

цэнтральнымі ўладамі РСФСР. Беларуская, ці Беларуска–літоўская, савецкая рэспубліка надалей была нежаданай.

Справа стварэньня БССР ажыла раптоўна толькі пад канец сьнежня 1918 г., а папярэдзіла гэта здарэньне, аб значэньні якога можам меркаваць прыблізна. У палове кастрычніка, калі быў закончаны першы этап эвакуацыі нямецкай арміі зь Беларусі, у Менску была паклікана новая Рада Міністраў БНР з сацыял–дэмакратам Антонам Луцкевічам як яе прэм'ерам. Паколькі рыхтаваўся чарговы этап адступленьня немцаў, члены новага кабінэту не маглі не спадзявацца, што дні Беларускай Народнай Рэспублікі ўжо палічаны, а яе альтэрнатывай можа быць Беларуская савецкая рэспубліка. Пасьлядоўна Рада БНР і яе ўрад лічылі на магчымасьць перамоваў з урадам РСФСР, які пакуль што ня быў зьвязаны прызнаньнем альтэрнатыўнай (савецкай) беларускай дзяржаўнасьці.

Як паведаміў Вацлаў Іваноўскі — тагачасны міністар асьветы БНР, — у лістападзе 1918 г. Луцкевіч выехаў у Маскву з мэтай выкладаньня Леніну канцэпцыі стварэньня кааліцыйнага ўраду савецкай Беларусі, у які ўваходзілі б камуністы (група Жылуновіча) і сацыял–дэмакраты — прадстаўнікі Рады БНР (Запісы БІНіМ. Кн. I. 1962. С. 160—162). Можна не сумнявацца, што аўтары праекту, разьлічваючы на яго адабрэньне, спадзяваліся запэўніць працягласьць беларускай дзяржаўнасьці, паскорыць прызнаньне кіраўнікамі РСФСР Беларускай савецкай рэспублікі і яе ўраду як легітымнага пераемніка БНР і забясьпечыць перад разбурэньнем здабыткі БНР у галіне нацыянальнага будаўніцтва (асьвета, культура і т.п.).

Гэтая, здавалася б, неправўдападобная місія Луцкевіча ў Маскву пакуль што пацьвярджаецца толькі ягоным інтэрвію, апублікаваным у петраградзкім "Чырвоным шляху" (1918. 30 лістапада), у якім, аднак, ня згадвалася пра перамовы з уладамі РСФСР. Нам не вядома, якія былі іх вынікі. Аднак адмоўная ацэнка Луцкевіча ў "Чырвоным шляху" і далейшы ход падзеяў пераконваюць, што стаўленьне ўладаў РСФСР да канцэпцыі ўраду БНР не было іншым, чым да прапановы Белнацкому. Аб гэтым, між іншым, сьведчыць тэлеграма Леніна, высланая ў канцы лістапада галоўнакамандуючаму Я. Вацэцісу:

> С продвижением наших войск на запад и на Украину создаются областные временные Советские правительства, призванные укрепить Советы на местах. Это обстоятельство имеет и ту хорошую сторону, что отнимает возможность у шовинистов *Украины, Литвы, Латвии, Эстляндии* (падкр. намі. — *Ю.Т.*) рассматривать продвижение наших частей как оккупацию и создает благоприятную атмосферу для дальнейшего продвижения наших войск.

На адмоўнае стаўленьне кіраўнікоў РСФСР да пытаньня стварэньня Беларускай ССР паказвае таксама ажыцьцяўленьне цытаванага ленінскага ўказаньня. 10 сьнежня немцы перадалі Менск савецкім уладам, аднак ні тады, ні ў наступныя дні не была абвешчана БССР і створаны яе ўрад. Затое ўрад савецкай Літвы быў створаны ўжо 8 сьнежня ў Вільні, калі Чырвоная Армія была яшчэ далёка ад літоўскай сталіцы. Адначасова, пачынаючы ад 12 сьнежня, савецкія органы ў Менску арганізавалі шэраг рэзалюцыяў, зваротаў і выказваньняў аб аб'яднаньні Беларусі і Літвы (гл.: Круталевич В. Рождение Белорусской Советской Республики. Минск, 1975. С. 121—122). Уся гэтая акцыя была інсьпіраванай зьверху (такая акцыя праводзілася і ў Літве), а гэта дае падставу меркаваць, што для ўладаў РСФСР болей прывабнай была ідэя савецкай Літвы, у склад якой увайшла б частка абшараў Беларусі. У такім "інтэрнацыянальным катле" беларускае нацыянальнае пытаньне не станавіла б непажаданай праблемы. Акрамя таго, усходнія абшары Беларусі маглі б заставацца ў межах Расеі.

У такіх умовах прынятае ў канцы сьнежня рашэньне ЦК РКП(б) аб абвяшчэньні БССР было ня толькі нечаканым, але і сэнсацыйным. Што ўплыло на так раптоўную і рады-

кальную зьмену палітычнага курсу ў адносінах да пытаньня беларускай дзяржаўнасьці? Вось жа, пасьля адступленьня немцаў у Менску засталася левая частка Рады БНР і яе ўраду, якая ўсё яшчэ лічыла на магчымасьць стварэньня кааліцыйнага ўраду савецкай Беларусі. Аднак гэтыя спадзяваньні БНРаўскіх палітыкаў закончыліся іх арыштам. Такім чынам, савецкімі ўладамі была адхілена апошняя спроба супрацоўніцтва паміж сацыял–дэмакратамі і камуністамі. У выніку, неўзабаве пасьля эвакуацыі ў Горадню ўрад БНР разгарнуў дыпляматычную кампанію, пратэстуючы супраць бальшавіцкай акупацыі Беларусі, а паколькі не існавалі ні БССР, ні яе ўрад, гэтыя пратэсты былі абгрунтаваныя з пункту гледжаньня крытэраў міжнароднага права.

Такой сытуацыі Ленін не жадаў і, магчыма, не прадбачыў. Давялося выпраўляць памылку, што і выканаў Сталін уласьцівымі яму мэтадамі. На працягу літаральна некалькіх дзён было зроблена ўсё неабходнае: арганізаваная воля народу, перакананыя кіраўнікі Заходняй вобласьці, апрацаваны маніфэст і вызначаны асабовы склад ураду з Жылуновічам як прэм'ерам. Цырымоніі адбыліся ў Смаленску, і 1 студзеня 1919 г. быў абнародаваны маніфэст*, які абвяшчаў паўстаньне незалежнай Беларускай савецкай рэспублікі. Была прынята пастанова і аб яе тэрыторыі, якая ахоплівала Менскую, Гарадзенскую, Магілёўскую, Віцебскую і Смаленскую губэрні. Цяпер пратэсты БНР былі ўжо няшкоднымі — сьвет мог пераканацца, што акупацыя Беларусі маскоўскімі бальшавікамі — гэта "злосная выдумка нацыяналістычнай контрарэвалюцыі".

Аднак ледзь толькі Жылуновіч з сваім урадам прыехаў у Менск, аказалася, што з гэтай незалежнай дзяржавы застаўся адно прыгожы ўспамін. 16 студзеня 1919 г. ЦК РКП(б) з удзелам Леніна прыняў рашэньне аб выдзяленьні з БССР Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губэрняў і іх далучэньні да РСФСР. Астатнія дзьве губэрні — Менская і Гарадзенская — павінны былі ўзьяднацца зь Літвой і стварыць новае адміністрацыйнае фармаваньне — Літоўска–беларускую савецкую рэспубліку (Літбел). Гэтае рашэньне абазначала ліквідацыю БССР. У адрозьненьне ад сучасных гісторыкаў, тагачасны старшыня Ўсерасейскага цэнтральнага выканаўчага камітэту Я. Сьвярдлоў не хаваў, што матывам гэтага аб'яднаньня было "стремление ЦК обезопасить эти республики от возможности проявления в них национально–шовинистических стремлений" (Круталевич В. Тамсама, с. 188). А гэта значыць, што не адбылася ніякая зьмена курсу ленінскай партыі ў адносінах да беларускага пытаньня, якое па–ранейшаму ігнаравалася.

Узьнікае пытаньне, навошта кіраўнікам савецкай Расеі спатрэбілася ствараць БССР, якая ліквідавалася ледзь ня ў дзень свайго нараджэньня? Вось жа, акрамя згаданых зьнешнепалітычных абумоўленьняў, стварэньне, ці больш правільна — абвяшчэньне гэтай незалежнай рэспублікі дало ім і іншыя карысьці. Цяпер, калі ўжо "існавала" БССР, ленінскі плян яе ліквідацыі мог быць праведзены рукамі "сувэрэнных" органаў рэспублікі ад імя вольнага беларускага народу. Імем гэтага народу прыкрываліся разгром здабыткаў БНР у галіне нацыянальнай асьветы, ліквідацыя ўсіх беларускамоўных газэт і часопісаў, выгнаньне беларускай мовы зь дзяржаўнага ўжытку, словам, тых "национально–шовинистических стремлений", аб якіх гаварыў Сьвярдлоў.

А Жылуновіч, адзін з "айцоў" БССР? Той, здаецца, зразумеў сваю халуйскую ролю. Стараўся выратаваць ад пагрому расейскіх шавіністаў доўгачаканую рэспубліку, не пагаджаўся і пратэставаў супраць ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі. Урэшце гэты трагічны прэм'ер вольнай дзяржавы быў арыштаваны — імем беларускага народу[6].

---

* Насамрэч Маніфэст Часовага работніча–сялянскага савецкага ўраду Беларусі быў падпісаны 2 студзеня 1919 г. і толькі пяцьцю сябрамі гэтага ўраду (гл.: 1 января 1919 года: Временное рабоче–крестьянское советское правительство Белоруссии: Документы и материалы. Минск: Лимариус. 2005. С. 114). — *А.С.*

[6] Зьміцер Жылуновіч не арыштоўваўся бальшавікамі ў 1919 г. Аднак 8—10 лютага 1919 г. былі арыштаваныя іншыя тры былыя сябры Часовага рабоча–сялянскага савецкага ўраду Беларусі — беларусы Язэп Дыла, Усевалад Фальскі і Фабіян Шантыр. — *А.П.*

Ажыцьцяўленьне рашэньня ЦК РКП(б) ад 16 студзеня 1919 году аб ліквідацыі толькі што абвешчанай БССР па сутнасьці не патрабавала ніякіх практычных дзеяньняў. Апублікаваны 1 студзеня 1919 г. "маніхвэст" Жылуновіча аказаўся папяровай дэклярацыяй, а не зыходным пунктам рэальнага будаўніцтва беларускай савецкай дзяржаўнасьці. Патрэбная была толькі фармальная працэдура, якая імем беларускага народу ўхваліла б рашэньне ЦК аб лёсе беларускай дзяржаўнасьці. З такой мэтай быў арганізаваны т.зв. першы ўсебеларускі зьезд саветаў, які адбыўся 2—3 лютага 1919 г. у Менску.

Зьезд як "вярхоўная ўлада сувэрэннай дзяржавы" прыняў канстытуцыю БССР, якая заканадаўча замацоўвала нараджэньне беларускай савецкай дзяржаўнасьці, і адначасова прызнаў неабходным ліквідацыю гэтай дзяржаўнасьці. У прыватнасьці, зьезд выказаўся за перадачу Расеі Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губэрняў, г.зн. большай часткі тэрыторыі Рэспублікі, і зьліцьцё рэштак яе тэрыторыяў зь Літвой. Фактычна, гэткай рэштай была толькі адна Меншчына, паколькі на Гарадзеншчыне яшчэ былі немцы, а ўся Віленшчына яшчэ раней лічылася абшарам Літвы. Рашэньне зьезду папярэдзіла жорсткае падаўленьне апазыцыі беларускіх камуністаў[7], пасьля чаго Мясьнікоў[8] і яму падобныя прадстаўнікі "беларускага народу" маглі задаволіць патрабаваньні Леніна.

Абвешчанае 28 лютага 1919 г. новае адміністрацыйнае ўтварэньне — Літоўска–беларуская савецкая рэспубліка (Літбел) — ні ў чым не нагадвала беларускай дзяржавы. У яе кіраўнічыя органы — Цэнтральны выканаўчы камітэт і Савет народных камісараў — уваходзілі расейскія, жыдоўскія, польскія і крыху літоўскіх камуністаў, але беларусаў сярод іх не было[9]. Нягледзячы на тое, што ў склад Літбел уваходзіла толькі невялікая частка беларускіх абшараў, надалей працягвалася іх перадача савецкай Расеі. Як піша В. Круталевіч, у сакавіку 1919 г. уладамі Літбел былі перададзеныя Рагачоўскі і Дзісенскі паветы, што ўваходзілі ў Менскую губэрню (гл. яго: Станаўленне дзяржаўнасці. Мінск, 1989. С. 54).

Паводле сучасьніка А. Грыгор'ева, у гэтай Літоўска–беларускай рэспубліцы

> ...началось преследование всего белорусского. Белорусское национальное движение было объявлено "буржуазным предрассудком", в белорусских школах был введен русский язык, все белорусское — книгоиздательство, курсы, театр, хор были национализированы и очень скоро сведены на нет (Варшавское Слово. 1920. 2 мая).

Аднак такое становішча працягвалася нядоўга.

Вясной 1919 г. пачаўся наступ польскіх войск, якія 21 красавіка захапілі сталіцу Літбел — Вільню. Тады была абвешчана адозва Юзафа Пілсудзкага, у якой падкрэсьлівалася, што польскае войска ня ёсьць акупантам, але вызваліцелем і гарантам свабоднага рашэньня насельніцтва Літвы і Беларусі аб сваім лёсе.

## Ніякай Беларусі!

Страта Вільні і адозва Пілсудзкага зрабілі значнае ўражаньне на Маскву. У прыватнасьці, адозва, адрасаваная "Да жыхароў Вялікага Княства Літоўскага", успрымалася там як імкненьне палякаў аднавіць гістарычную фэдэрацыю Польшчы зь Літвой і Беларусьсю. Яе пасьпяховае ажыцьцяўленьне спрыяла б далучэньню Украіны і стварэньню пад эгідай

[7] Маецца на ўвазе арышт Язэпа Дылы, Усевалада Фальскага і Фабіяна Шантыра. — *А.П.*

[8] Мясьнікоў (Мясьнікян) Аляксандар (1886—1925) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзяяч, у 1918—1919 г. фактычны кіраўнік савецкіх уладных структураў на тэрыторыі Беларусі. — *А.П.*

[9] Сярод усіх сяброў ураду Літбел беларускае паходжаньне меў хіба што толькі камісар шляхоў зносін Іван Савіцкі, які нарадзіўся ў 1887 г. у вёсцы Козіна Слонімскага павету ў сялянскай сям'і. Аднак сваю беларускасьць ён ніколі і нідзе не дэманстраваў, таму цьверджаньне пра адсутнасьць у кіраўніцтве Літбел беларусаў можна лічыць цалкам слушным. — *А.П.*

Польшчы вялікай канфэдэрацыі ўсходнеэўрапейскіх народаў, здольнай супрацьпаставіцца расейскаму і нямецкаму імпэрыялізмам. Такая пэрспэктыва пагражала інтарэсам Расеі, тым больш, што нельга было выключыць магчымасьці яе падтрымкі беларускімі палітычнымі дзеячамі, расчараванымі варожым стаўленьнем уладаў РСФСР да беларускае дзяржаўнасьці.

Паколькі сілы Чырвонай Арміі былі недастатковыя для паўстрымапньня наступу польскіх войск, давялося выкарыстоўваць дыпляматычныя магчымасьці. З такой мэтай 17 ліпеня 1919 г. упаўнаважаны Леніна, Юліян Мархлеўскі, перайшоў лінію савецка–польскага фронту. Хутка ён быў перавезены ў Белавежу, а потым у Мікашэвічы, дзе адбываліся перамовы[10].

Пераход Мархлеўскага праз лінію фронту папярэдзіла важнае здарэньне: 16 ліпеня ЦК КП Літвы і Беларусі прыняў рашэньне аб роспуску ўраду Літбел, што адпавядала фактычнай ліквідацыі гэтай рэспублікі. Гэтага патрабаваў Сталін, які ў сярэдзіне ліпеня прыбыў у Менск, дзе знаходзіліся эвакуаваныя зь Вільні ўлады Літбел. Патрабаваньне Сталіна сьведчыць адназначна аб тым, што аб ліквідацыі Літоўска–беларускай рэспублікі, так як і аб яе ўтварэньні, рашэньне прымала Масква, а не мясцовыя органы савецкай улады ці, тым больш, народ. Па–другое, гэтае важнае рашэньне было прынята найхутчэй у першыя дні ліпеня, калі значная частка тэрыторыі Літбел яшчэ не была акупавана польскімі войскамі — Менск яны захапілі толькі праз месяц (8 жніўня), а да ракі Бярэзіны, на якой фронт стабілізаваўся, дайшлі яшчэ пазьней.

Выглядае на тое, што, ня маючы магчымасьці паўстрымаць наступ палякаў, улады РСФСР загадзя рыхтаваліся перадаць ім тыя часткі беларускіх і літоўскіх абшараў, што ўваходзілі ў склад Літбел, а ліквідацыя гэтай рэспублікі павінна была аблегчыць перамовы. Цяпер, калі Літоўска–беларуская савецкая рэспубліка зьнікала з карты Эўропы, Мархлеўскі мог свабодна дамаўляцца з прадстаўнікамі Польшчы аб лёсе Літвы і Беларусі не як “сувэрэнных дзяржаваў”, але як тэрыторыяў зь неакрэсьленым дзяржаўным статусам, якія ў залежнасьці ад канкрэтнага ваенна–палітычнага становішча маглі быць перададзеныя ў сфэру ўплыву Польшчы ці Расеі або падзеленыя паміж імі. Аб гэтым сьведчыць наступнае заяўленьне Мархлеўскага, зробленае пад канец ліпеня ў Белавежы:

> Ленін выразна сказаў: “Калі б палякі мелі намер правесьці плебісцыт у Літве і Беларусі, то не разыйдземся адносна таго, як гэты плебісцыт будзе праведзены; таксама не разыйдземся адносна лёсу Беларусі” (Гарліцкі А. Пілсудзкі—Ленін // Polityka.1987. 27 чэрвеня).

Усё ж Ленін пераацэньваў намеры і магчымасьці Пілсудзкага. Неўзабаве выявілася, што, захапіўшы Вільню, ён ушанаваў сувэрэнітэт незалежнай Літоўскай рэспублікі, відаць, маючы надзею на яе добраахвотнае адабрэньне фэдэрацыйнай ідэі. Такім чынам, справа плебісцыту ў Літве рабілася беспрадметнай. З другога боку, гэтая акалічнасьць давала савецкай Расеі магчымасьць дыфэрэнцыяванага стаўленьня да паасобных патэнцыяльных членаў праектаванай фэдэрацыі. Першым крокам была стаўка на элімінацыю Літвы з гэтай фэдэрацыі, што патрабавала падтрымкі незалежніцкіх імкненьняў літоўскай Тарыбы[11], нягледзячы на яе “буржуазны” характар. 4 верасьня 1919 г. урад РСФСР запрапанаваў літоўскаму ўраду пачаць перамовы аб узаемных дачыненьнях, у выніку чаго 4 красавіка ён юрыдычна прызнаў Літоўскую рэспубліку, такім чынам адмаўляючыся ад канцэпцыі літоўскай савецкай дзяржаўнасьці.

Аднак жа ліквідацыя Літбел абазначала фармальнае адмаўленьне Масквы і ад бела-

---

[10] Перамовы, якія доўжыліся да 15 сьнежня 1919 г., не прывялі да заключэньня пагадненьня, якое нейкім чынам абавязвала б бакі. Быў падпісаны толькі дакумэнт аб двухбаковым абмене закладнікамі. — *А.П.*

[11] Літоўская Тарыба (Рада) была створаная ў верасьні 1917 г. і адыгрывала ролю вярхоўнага органа ўлады ў Літве. Існавала да траўня 1920 г. 16 лютага 1918 г. яна абвясьціла незалежнасьць Літвы. Дзеячы Віленскай беларускай рады цесна супрацоўнічалі з Тарыбай і нават каапталіся ў яе склад. — *А.П.*

рускай савецкай дзяржаўнасьці, што, дарэчы, адпавядала яе фактычнаму стаўленьню да гэтага пытаньня перад і пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі. У адрозьненьне ад Літвы, не прызнавалася таксама і "буржуазная" дзяржаўнасьць Беларусі. Карацей кажучы, Расея не хацела ніякай Беларусі — ні савецкай, ні "буржуазнай". Не выпадкова на парадку дня перамоваў было ў гэтай справе толькі адно пытаньне — ці задаволіць палякаў узамен на мір тая частка беларускай зямлі, што знаходзілася ў складзе Літбел. Цяпер няцяжка ўявіць, што мэтай далучэньня трох усходнебеларускіх губэрняў, зацьверджанага па патрабаваньні Леніна першым усебеларускім зьездам саветаў, было іх "забесьпячэньне" ад магчымых польскіх прэтэнзіяў, як "iсьціннарасейскіх" абшараў, што ўжо тады адлюстроўвала намер Леніна аб падзеле Беларусі паміж Польшчай і РСФСР.

Такая канцэпцыя рашэньня беларускага пытаньня заставалася нязьменнай на працягу шматмесячных савецка–польскіх перамоваў. Паводле сьведчаньня ўдзельнікаў польскай дэлегацыі, у кастрычніку 1919 г. Мархлеўскі ад імя Леніна надалей заяўляў аб яго незацікаўленасьці Беларусьсю і аб тым, што паміж Польшчай і РСФСР няма ніякіх спрэчных тэрытарыяльных праблемаў, а Польшча атрымае ўсё, чаго пажадае. Урэшце, ад лістапада 1919 г. да лютага 1920 г. савецкі ўрад некалькі разоў прапаноўваў Польшчы мір зь вечнай граніцай па рэках: Дзьвіна, Ула, Бярэзіна, Пціч.

## Правал фэдэрацыйных плянаў

На гэтай лініі польская армія стаяла амаль цэлы год, але Пілсудзкі не рашаўся ні на мір, ні на далейшы паход на Віцебск, Магілёў і Смаленск. Якія ж былі прычыны такога становішча? Польскія гісторыкі лічаць, што, стабілізуючы ваенныя дзеяньні, Пілсудзкі імкнуўся дапамагчы бальшавікам у іх змаганьні з айчыннымі і замежнымі праціўнікамі савецкай улады, паколькі лічыў, што белая Расея больш небясьпечная для Польшчы, чым чырвоная.

Здавалася б, пры такім стаўленьні да бальшавікоў Пілсудзкі мог згадзіцца з прапановамі Леніна і заключыць мір зь вельмі выгаднай для Польшчы ўсходняй граніцай, якую не ўскладняла б ніякая Беларусь. На думку гісторыкаў, адмаўленьне Пілсудзкага адлюстроўвала яго імкненьне рэалізаваць фэдэрацыйную задуму, якая ўлучала ня толькі літбелаўскія рэшткі беларускай зямлі, але ўсю Беларусь зь Віцебскам, Магілёвам, а можа, і Смаленскам. Летам 1919 г. такая канцэпцыя ўхвальвалася амаль усімі беларускімі партыямі і арганізацыямі, якія дзякуючы нігілістычнаму стаўленьню савецкай улады лічылі яе адзінай рэальнай альтэрнатывай рашэньня пытаньня беларускай дзяржаўнасьці.

Непасьлядоўную пазыцыю Пілсудзкага ўмела выкарыстала Масква. Паколькі стабілізацыя польскага фронту на Бярэзіне спрыяла перамогам Чырвонай Арміі на іншых франтах грамадзянскай вайны, то можна было не хвалявацца і працягваць мірныя перамовы. Затое трэба было ўсімі сродкамі змагацца з фэдэрацыйнымі плянамі Пілсудзкага, перш за ўсё выкарыстоўваючы польска–беларускія супярэчнасьці. Аб гэтым пераканаўча сьведчыць падтрымка, аказаная Літоўскай рэспубліцы, што ў значнай меры паўплывала на яе адмоўнае стаўленьне да фэдэрацыі з Польшчай.

У Беларусі такая апэрацыя магла быць рэалізавана меншым коштам. Гэтаму спрыялі тры фактары: кантрыбуцыі і рабункі польскіх войск, рэстаўрацыя канфіскаванай памешчыцкай уласнасьці і эгаістычныя, недальнабачныя дзеяньні польскай адміністрацыі ў галіне нацыянальнай палітыкі. Усё гэта дыскрэдытавала афіцыйныя заяўленьні Пілсудзкага і выклікала абгрунтаваную незадаволенасьць беларускага насельніцтва і палітычных дзеячоў, якіх лёгка было схіліць да актыўных супрацьпольскіх выступленьняў.

У гэтых адносінах важную ролю адыграла Партыя беларускіх сацыялістаў–рэвалюцыянэраў (эсэраў)[12], праграмныя патрабаваньні якой былі блізкія бальшавіцкім лёзунгам,

[12] Партыя беларускіх сацыялістаў–рэвалюцыянэраў (БПСР) утварылася ў выніку расколу ў Беларускай сацыялістычнай грамадзе ў 1918 г., дзейнічала да 1924 г. — *А.П.*

хаця спалучаліся з ідэяй незалежнай Беларусі. Эсэры, якія яшчэ ў жніўні ўдзельнічалі ў прывітаньні Пілсудзкага ў Менску[13], хутка паразумеліся з савецкімі ўладамі і восеньню 1919 г. заключылі зь імі ў Смаленску дамову аб супрацы. Згодна з дамовай, эсэры атрымоўвалі савецкую матэрыяльную падтрымку і разгарнулі агітацыю і партызанскую барацьбу супраць польскіх акупантаў. Пераважнай была роля эсэраў у беларускіх грамадзкіх і культурных арганізацыях і, у прыватнасьці, у адноўленай Радзе БНР, што ў сьнежні 1919 г. давяло да яе расколу[14].

Калі беларускія эсэры лічылі бальшавікоў сваімі саюзьнікамі, то бальшавікі трактавалі іх інструмэнтальна як памагатых у ажыцьцяўленьні сваіх плянаў. Апазыцыйная дзейнасьць эсэраў хутка выклікала жорсткія рэпрэсіі польскай адміністрацыі, што садзейнічала ня толькі актывізацыі антыпольскага падпольля, але і палітычнай дыскрэдытацыі тых беларускіх груповак, якія ўсё яшчэ арыентаваліся на Польшчу. У выніку ўва ўмовах узрастаючай варожасьці на пачатку 1920 г. не было ўжо рэальных чыньнікаў для рэалізацыі фэдэрацыйнай задумы, якую сам Пілсудзкі пазьней ацаніў як “беларускую фікцыю”[15].

Правал фэдэрацыйных плянаў быў важным дасягненьнем Масквы, якая ўмела разыграла польска–беларускія супярэчнасьці.

## Рыскі трактат

4 ліпеня 1920 г. пачаўся наступ Чырвонай Арміі на Заходнім фронце, і ўжо 11 ліпеня палякам давялося пакінуць Менск. Зноў вярталася ў Беларусь савецкая ўлада, аднак пра беларускую савецкую дзяржаўнасьць пакуль што гутаркі не было. Затое праз адзін дзень — 12 ліпеня — была падпісана савецка–літоўская дамова, згодна зь якой Літве перадаваліся значныя заходнебеларускія абшары[16]. Як бачым, Масква па–ранейшаму задавальняла тэрытарыяльныя патрабаваньні суседзяў на кошт Беларусі. Гэтым разам стасавалася канцэпцыя “Літбел навыварат”, якая магла садзейнічаць антаганізацыі беларуска–літоўскіх адносінаў і, такім чынам, прадухіліць магчымую беларуска–літоўскую

---

[13] Ю. Пілсудзкі прыяжджаў у Менск 19 верасьня 1919 г. — *А.П.*

[14] Маецца на ўвазе раскол Рады БНР 13 сьнежня 1919 г. на Народную раду на чале зь Пятром Крачэўскім і Найвышэйшую раду на чале з Антонам Луцкевічам. Прыхільнікі першай трымаліся выразна антыпольскіх пазыцыяў, а дзяячы другой не рашыліся ў тых умовах на разрыў з Польшчай, бо, як лічыў А. Луцкевіч:

> Пасьледзтвы паўстаньня проці польскай акупацыі пры гэткай непадгатоўленасьці і без заручкі з стараны бальшавікоў і літвіноў маглі бы быць катастрафальнымі, бо вызвалі бы пагалоўныя рэпрэсіі з стараны палякаў проці ўсяго беларускага, як “бальшавіцкага”, зьнішчылі і так слабую нашу нацыянальную работу і той адпор, каторы мы сяк так даем ладжанаму плебісцыту і панаваньню польшчыны, а ўрэшці аканчацельна пахаранілі бы нашу справу ў вачах Антанты і памаглі бы паляком атрымаць ад яе мандат на “ўпарадкаваньне” Ўсходніх Зямель, чаго палякі цяпер асабліва дабіваюцца.

*Крыніца:* Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. Вільня—Нью–Ёрк—Менск—Прага, 1998. С. 599—600. — *А.П.*

[15] Ёсьць меркаваньне, што Пілсудзкі ад самага пачатку трымаўся фэдэрацыйнай канцэпцыі толькі з тактычных меркаваньняў. Пра гэта, можа, сярод іншага, сьведчыць ягонае выказваньне ў лісьце, скіраваным да Леана Васілеўскага 9 красавіка 1919 г.:

> Не хачу быць ані імпэрыялістам, ані фэдэралістам, пакуль няма мажлівасьці казаць пра гэтыя справы больш–менш сур’ёзна… Дзеля таго, што на Божым сьвеце пачынае, здаецца, перамагаць балбатня пра братэрства людзей і народаў і амэрыканскія дактрынкі, ахвотна схіляюся на бок фэдэралістаў.

*Крыніца:* Piłsudski J. Pisma zbiorowe. T. V. Warszawa, 1937. S. 73. — *А.П.*

[16] Згодна з гэтай дамовай, савецка–літоўская мяжа мелася праходзіць у беспасярэднай блізкасьці ад такіх беларускіх гарадоў, як Горадня і Маладэчна. — *А.П.*

дзяржаўную супольнасьць. Такая магчымасьць не выключалася, паколькі ў Коўні апынуўся старшыня Рады БНР Вацлаў Ластоўскі і іншыя эсэраўскія дзеячы, якія прасьледаваліся польскай адміністрацыяй у Менску.

Новым становішчам у Беларусі найбольш расчараваныя былі эсэры, якія, згодна з Смаленскім дагаворам, лічылі на працяг канструктыўнага супрацоўніцтва з бальшавікамі і на ўдзел ўва ўрадзе БССР. Неўзабаве адправіўся ў Маскву намесьнік старшыні Рады БНР Васіль Захарка, які 17 ліпеня 1920 г. падаў народнаму камісару замежных спраў РСФСР Георгію Чычэрыну[17] ноту. Паколькі гэты цікавы дакумэнт быў нядаўна апублікаваны Вітаўтам і Зорай Кіпелямі ў зборніку “Беларуская дзяржаўнасьць” (Нью–Ёрк, 1988. С. 94), працытуем толькі яго фрагмэнты, найбольш характэрныя для эсэраўскага пункту гледжаньня:

> Дзеля дасягненьня нацыянальна–палітычнага адраджэньня, вякамі прыгнечаны беларускі народ пайшоў на адкрытую барацьбу з усімі гвалтаўнікамі працоўнага народу. Ён глыбока верыў, што ў гэтай барацьбе за зьністажэньне ненавіснага ўціску парабаціцеляў і эксплюататараў і (за) сваё законнае адраджэньне, ён знойдзе моцную падтрымку ва ўсім расейскім пралетарыяце і перш усяго ў камуністычнай партыі.
> К жалю прыходзіцца канстатаваць, што гэтыя надзеі зусім ня зьдзейсьніліся. Калі сумленна прааналізаваць адношаньні Расеі да Беларусі, то нявольна прыходзіцца прыйсьці да досыць сумных вынікаў. Усе яны былі такога зьместу, што ў канцы канцоў толькі адпіхала, а не прыбліжала да сябе беларускі народ. <...>
> Падыходзячы да трэцяга прыходу радавае ўлады ў м. Менск і актыўна памагаючы ёй у барацьбе з Польшчаю, кіруючая працоўным беларускім народам большая частка сацыялістычных партыяў мела глыбокае перакананьне ў тым, што на гэты раз радавая ўлада не дапусьціць папярэдніх абмылак і стане на новы шлях братэрскага адношаньня да працоўнага беларускага народу. Пры такім адношаньні радавай улады працоўны беларускі народ ахвотна пайшоў бы на верную і чэсную сувязь зь ёю.
> Задавальненьне законных імкненьняў беларускага народу дало б радавай уладзе таксама падтрымку і з боку палітычных групаваньняў, стоячых за палітычную незалежнасьць Беларусі і нацыянальна–культурнае адраджэньне яе.
> Гэтае новае эры чакаў зь нецярплівасьцю ўвесь беларускі народ, які нават не дапускаў думкі, што радавая ўлада, аслабаніўшы Беларусь з–пад уціску Польшчы, можа аддаць хаця б частку яе ў карыстаньне другога суседа. Аднак падпісаная мірная ўмова зь Літвою вышэй успамянутыя надзеі яшчэ раз разьбіла, і беларускі народ мае няшчасьце быць сьведкаю таго акту, які яму здаваўся зусім недапусьцімым і немажлівым. <...>
> Настолькі несправядлівае і незаслужанае адношаньне да беларускага народу нанесла новы ўдар трэцяму моманту зьбліжэньня Беларусі з Радаваю Расеяй, і разам з тым яно кладзе пачатак новаму падзелу Беларусі і аддае беларускую рэвалюцыйную дэмакратыю на аслабленьне яе сілаў, шкоднае інтарэсам сацыяльнай рэвалюцыі.
> Зьяўляючыся паўнамоцным прадстаўніком Беларускай Народнай Рэспублікі я, ад імя майго народу, складаючагося ў большасьці зь левых беларускіх сацыялістаў, уступіўшых у рэвалюцыйную барацьбу за вызваленьне Беларусі з–пад усіх акупантаў, лічу сваім абавязкам заявіць перад урадам Расейскай Сацыялістычнай Фэдэрацыйнай Радавай Рэспублікі рашучы пратэст супраць уступкі клерыкальна–буржуазнай Літве беларускай тэрыторыі.
> Хачу верыць, што такі несправядлівы ў адносінах да беларускага народу акт не атрымае аканчальнага зацьвярджэньня і што з аканчальнай пабедаю Чырвонай Арміі Радавай Расеі над панскай Польшчай вызваленаму працоўнаму беларускаму народу будзе дадзена неза-

[17] Чычэрын Георгій (1872—1936) — народны камісар замежных справаў РСФСР (з 1922 г. — СССР) у 1918—1930 г. — *А.П.*

лежнасьць дзеля рэальнай мажлівасьці зьдзяйсьненьня нацыянальна–палітычнага і сацыяльнага адраджэньня.

*Старшыня Надзвычайнай дыпляматычнай місіі*
*Намесьнік старшыні Рады БНР*
*В. Захарка*

Пратэстацыйная нота Захаркі не зьмяніла рашэньня Масквы што да падараваных Літве беларускіх абшараў, аднак, магчыма, не была цалкам безвыніковая. У прыватнасьці, Захарка лічыў, што яго націск на Чычэрына, акрамя "вонкавых абставін", паўплываў на рашэньне савецкіх уладаў аб паўторным абвяшчэньні БССР. Усё ж выпадае заўважыць (калі Захарка не памыляўся), што такое рашэньне Масквы няшмат каштавала, паколькі не зьмяніла яе ранейшага стаўленьня да гэтага пытаньня.

Аб гэтым сьведчыць сама працэдура ўтварэньня гэтай "незалежнай дзяржавы". Перш за ўсё разгледзім пытаньне, хто і як яе ўтварыў? Вось жа, паводле Круталевіча, 31 ліпеня 1920 г. у Менску сабраліся прадстаўнікі чатырох арганізацыяў — кампартыі Літвы і Беларусі, прафсаюзаў, Беларускай камуністычнай арганізацыі[18] і "Бунду"[19] і падпісалі "Дэклярацыю аб абвяшчэньні незалежнасьці савецкай сацыялістычнай рэспублікі Беларусі, якая абвесьціла аб узнаўленьні беларускай савецкай дзяржаўнасьці (гл. яго: Станаўленне дзяржаўнасці. Мінск, 1989. С. 108). Як бачым, юрыдычная падстава гэтага акту была непараўнальная з абвяшчэньнем незалежнасьці БНР, якое савецкімі гісторыкамі ацэньваецца як "неправамоцнае". Чым жа тады, калі не насьмешкай, было другое абвяшчэньне БССР, якое ў выпадку патрэбы лёгка было прызнаць неправамоцным або нейкім банальным недаразуменьнем.

Фікцыйнасьць юрыдычнага статусу БССР падкрэсьліваў іншы факт: летам 1920 г. ня быў створаны ўрад рэспублікі, замест якога паўстаў у Менску Ваенна–рэвалюцыйны камітэт з кампэтэнцыямі губэрскага органа ўлады. Усё гэта сьведчыла аб ваганьні і няўпэўненасьці кіруючых органаў РСФСР што да лёсу Беларусі. Аднак на ўсякі выпадак была акрэсьлена яе тэрыторыя ў складзе 18 паветаў Менскай і Гарадзенскай губэрняў. Вялікая ўсходняя частка Беларусі па–ранейшаму заставалася ў Расеі, а беларускія раёны Віленшчыны — у Літве.

Пасьля паражэньня Чырвонай Арміі пад Варшавай у другой палове жніўня пачаўся контранаступ польскіх войск, які працягваўся да 18 кастрычніка. У яго выніку 12 паветаў новай Беларускай ССР патрапілі на польскі бок, і толькі 6 — на савецкі (Меншчына). У такой сытуацыі адбылося здарэньне, аб якім маўчыць савецкая гістарыяграфія, але якое красамоўна адлюстроўвала стаўленьне савецкай Расеі да беларускага пытаньня: на пачатку мірных перамоваў у Рызе старшыня савецкай дэлегацыі Адольф Іофэ схіляўся аддаць пад польскі ўплыў усю Беларусь узамен на прызнаньне палякамі савецкай Украіны (Dąbski J. Pokój Ryski. Warszawa, 1931. S. 78). Паколькі "ўся Беларусь" складалася з 18 паветаў, гэтая прапанова абазначала магчымасьць перадачы Польшчы астатніх незанятых польскімі войскамі 6 паветаў Меншчыны і гатоўнасьць РСФСР пазбыцца беларускага пытаньня.

Магчыма, гэта быў адзін з парадоксаў гісторыі: большасьць дэлегацыі Польшчы, не ўхвальваючы фэдэрацыйнай канцэпцыі пілсудчыкаў, адмовілася ад прапановы Іофэ.

---

[18] Беларуская камуністычная арганізацыя (БКА) — беларуская палітычная арганізацыя камуністычнага кірунку, якая існавала ў студзені — жніўні 1920 г. Дабівалася аднаўленьня БССР, якая будавала б свае адносіны з РСФСР на фэдэрацыйных асновах. Старшынём БКА быў Усевалад Ігнатоўскі. 20 жніўня 1920 г. увайшла ў склад КП(б)Б. — *А.П.*

[19] Усеагульны габрэйскі рабочы саюз — нацыянальная сацыял–дэмакратычная габрэйская арганізацыя, якая дзейнічала з 1897 г. Ува Ўсходняй Беларусі існавала да 2–й паловы 1920–х г., у Заходняй — да 1939 г. — *А.П.*

Гэтае рашэньне паўплывала на лёс БССР, а можа, нават вызначыла яе існаваньне. Толькі з гэтага часу пачаўся рэальны працэс тварэньня рэспублікі — трэба ж было нешта зрабіць з шасьціпавятовай Меншчынай, якая дзякуючы палякам засталася на савецкім баку лініі фронту.

Па гэтай прычыне БССР не была сыгнатарам ганебнага Рыскага трактату, паколькі не была суб'ектам, але прадбачаным да ліквідацыі прадметам мірнай канфэрэнцыі. Пазьнейшае савецкае зацікаўленьне юрыдычным прызнаньнем Беларускай ССР Польскай рэспублікай было ўжо толькі звычайным наступствам вырашэньня яе будучыні ў Рызе.

*Друкуецца паводле:* Кантакт. 1989. № 2; 1990. № 1(3).

# Памяці Браніслава Туронка

## Ад аўтара

У чэрвені 1942 году я закончыў пачатковую школу ў Дукштах, пасьля чаго рыхтаваўся паступіць у гімназію. Час быў ваенны, але Ўсходні фронт знаходзіўся недзе далёка і ў Летуве было параўнальна спакойна, ува ўсякім разе для нас, дзяцей. Працавалі ня толькі пачатковыя і сярэднія школы, але і ўнівэрсытэт. Усё ж мая задума паступіць у віленскую гімназію магла здавацца маларэальнай. Па–першае, не было ў нас на тое патрэбных сродкаў і, па–другое, не было ў Вільні знаёмых, у якіх можна было б затрымацца на даўжэйшы час. Былі затое: цьвёрдае жаданьне вучыцца і мае 13 гадоў, калі цяжкасьці яшчэ мала ўсьведамляюцца. Дарэчы, у Вільню выбіраўся ня сам, але з "больш вопытным", бо 15–гадовым, сябрам Альфонсам Мікштасам.

Прыбыўшы ў канцы верасьня ў Вільню, мы адразу накіраваліся ў гімназію, якая знаходзілася пры Вялікай вуліцы побач касьцёла сьвятога Казімера. На панадворку спаткалі нейкага пана, які запытаў, чаго нам трэба. "Вучыцца!" — адказалі мы. "О, гэта вельмі добра", — сказаў незнаёмы і пацікавіўся адкуль мы прыехалі і як называемся. "Туронак", — адказаў я, пасьля чаго наш субяседнік запытаў: "Ці твой бацька лекар?" "Так", — адказаў я, але ўжо не жыве. Незнаёмы неяк задумаўся і запрасіў прыйсьці заўтра да дырэктара.

На другі дзень аказалася, што мы размаўлялі з дырэктарам Першай віленскай гімназіі Труканасам. Нашая справа была афармлена хутка і пасьпяхова: дырэктар прыняў нас у гімназію, вольніў ад платы за навуку (100 райхсмарак у год), забясьпечыў месца ў інтэрнаце. Гэта было ўсё, аб чым можна было тады марыць.

2 чэрвеня 1943 г., перад канцом школьнага году, сакратар гімназіі Юлія Жукаўскайтэ паведаміла, што дырэктар просіць мяне на сваю кватэру. Калі я туды зьявіўся, Труканас сказаў наступнае: "Часы няпэўныя, і невядома, ці давядзецца яшчэ спаткацца. Хачу табе толькі сказаць, што я ведаў твайго бацьку. Разам дзейнічалі — я змагаўся за сваю Летуву, а ён — за сваю Беларусь. Разам і цярпелі ад палякаў за гэтую нашую дзейнасьць". Шмат пазьней даведаўся, што да 1926 году Труканас жыў у Вільні.

Падобныя эпізоды, хоць ужо ня так важныя для мяне і ня так калярытныя, здараліся і пазьней — у Беластоку, Новай Всі каля Лемборку (у акоўскай кампаніі Віцькі), Шчэціне, Варшаве, а нават у Менску і на Захадзе. Ня раз давялося спатыкаць там людзей, якія ведалі Браніслава Туронка, прычым у адных выпадках імя бацькі памагала ў маіх жыцьцёвых справах, а ў іншых — бывала прычынай стрыманага або зьедлівага да мяне стаўленьня. Цікава, што нават некаторыя мініапаратчыкі зь Беларускага грамадзка–культурнага таварыства ў Польшчы, хоць і не арыентаваліся ў бацькавай біяграфіі, ня раз перашэптваліся: "Ну, Туронак, быццам нічога, але ж яго бацька!.."

Усё гэта, несумненна, інтрыгавала і зацікаўляла жыцьцёвым шляхам і грамадзкай дзейнасьцю бацькі. Аднак найбольшую патрэбу ў гэтай справе я пачаў адчуваць у ходзе досьледаў заходнебеларускага руху 20–х гадоў. Хацелася знайсьці адказ на пытаньне, які быў канкрэтны ўдзел бацькі ў гэтым руху. Гэтыя зацікаўленьні стымулявала "змова маўчаньня" вакол дзейнасьці бацькі, якая панавала ў сямейным асяродзьдзі. Тут традыцыя яго змаганьня не перадавалася нашчадкам. Можа, толькі акрамя скупаватых расказаў мамы, а таксама майго дзядзькі, кс. Язэпа Рэшаца*, які яшчэ ў 1947 годзе прыслаў

* Рэшаць Язэп (1890—1958) — каталіцкі сьвятар, доктар філязофіі і тэалёгіі, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

мне кароткі пасьмертны ўспамін Язэпа Найдзюка пра Браніслава Туронка, які быў зьмешчаны ў кастрычніку 1938 году ў віленскім “Шляху Моладзі”.

Трыццаць гадоў пазьней гэты газэтны выразак пачаў абрастаць дакумэнтамі, здымкамі, лістамі, нататкамі. Стварылася аб’ёмістая папка. Зьвесткі аб сямейным асяродзьдзі і маладосьці Браніслава былі атрыманыя ад ягоных сясьцёр Антаніны Каравай (Грыфіна, каля Шчэціна) і Фартунаты Вайніловіч (Забор’е, Шаркаўшчынскага раёну Віцебскай вобласьці), брата Яна Туронка (Малькі, Браслаўскага раёну Віцебскай вобласьці) і дваюраднага брата, кс. Язэпа Туронка (Стрый, Украіна).

Важныя матэрыялы аб грамадзкай дзейнасьці бацькі былі знойдзены ў даваенных віленскіх часопісах і іншых выданьнях. Дапоўнілі іх успаміны ягоных калегаў д–ра Францішка Пяткевіча (Крынкі) і д–ра Міколы Марцінчыка (Горадня), а таксама ўспаміны мамы. І ўрэшце ўспаміны мамы і мае ўласныя паслужылі для апісаньня апошніх гадоў жыцьця бацькі ў Дукштах.

Гэтыя матэрыялы мелі быць падставай біяграфічнага нарысу, які плянаваўся да 40–годзьдзя сьмерці Браніслава Туронка (1978 г.). Аднак у першай яго рэдакцыі аказаліся немалыя прагалы, якія датычылі перш за ўсё віленскага пэрыяду ягонага жыцьця. Спатрэбілася яшчэ экскурсія ў Цэнтральны дзяржаўны архіў Літоўскай ССР, якую ўдалося мне ажыцьцявіць у ліпені 1979 г. Дзякуючы дапамозе яго дырэктара В. Даўнене ў архіве была знойдзена студэнцкая асабовая папка Браніслава Туронка, а таксама акты яго справы ў Віленскім акруговым судзе (1925 г.). Некаторыя дакумэнты, між іншым, арыгінальнае пасьведчаньне Яраслаўскай гімназіі з 1917 г. (матуральнае), я атрымаў пазьней з гэтага архіву праз савецкае пасольства ў Варшаве.

Акрамя архіўных здабыткаў, на працягу апошніх трох гадоў былі знойдзены новыя біяграфічныя матэрыялы ў бібліятэках Вільні, Варшавы і Прагі, а таксама ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Адначасова былі атрыманыя ўспаміны Веры Карчэўскай (Матэйчук) з Супрасьлі і Язэпа Найдзюка, якія ўзбагацілі сабраны да гэтае пары матэрыял. Усім асобам, якія дапамаглі мне інфармацыяй, дакумэнтамі, здымкамі, выказваю сардэчную падзяку.

*Варшава, у жніўні 1981 г.*

## 1. Дзісеншчына — радзіма Туронкаў

На пачатку нашага тысячагодзьдзя тэрыторыя Сярэдняга Наддзьвіньня, падобна як і ўсёй паўночна–заходняй паласы сёньняшняй Беларусі, прадстаўляла пераходную этнічную зону між Полацкай зямлёй на ўсходзе і Летувой на захадзе. Стварылася яна шляхам калянізацыйнай экспансіі беларускага насельніцтва Полаччыны на абшары, якія раней поўнасьцю засялялі балцкія плямёны. Этнічная неаднароднасьць, у сваю чаргу, абумовіла веравызнаўчую дыфэрэнцыяцыю жыхароў Дзісеншчыны.

Ува ўмовах сумеснага пражываньня хутка наступала моўная асыміляцыя балцкіх аўтахтонаў, чаму садзейнічаў вышэйшы ў беларусаў тып культуры, якая стваралася на базе хрысьціянства. Прыгадаем, што ўжо ў XIV ст. старабеларуская мова была афіцыйнай мовай Вялікага Княства Літоўскага. Варта, аднак, заўважыць, што ўсьлед за моўнай асыміляцыяй не наступілі істотныя зьмены ў веравызнаўчых адносінах.

Ува ўмовах суіснаваньня абедзьвюх плыняў хрысьціянства на працягу мінулых стагодзьдзяў адбывалася фармаваньне грамадзтва Дзісеншчыны. За гэты час, шляхам незьлічоных сужэнстваў, насельніцтва грунтоўна перамяшалася, у выніку чаго немагчыма ўжо адрозьніць ці выдзяліць нашчадкаў колішніх полацкіх перасяленцаў ці аўтахтонаў.

Частку насельніцтва Дзісеншчыны складалі расейскія стараверы, колішнія эмігранты з Маскоўшчыны, а таксама жыды і дробныя групы мусульманскіх татараў.

Паводле “Первой всеобщей переписи населения Российской империи”, у канцы XIX ст. моўная і веравызнаўчая структура насельніцтва Дзісенскага павету выглядала гэтак:

**Структура насельніцтва Дзісенскага павету ў 1897 годзе**

| паводле роднай мовы | | | паводле веравызнаньняў | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Агулам** | **204923** | **100%** | **Агулам** | **204923** | **100%** |
| У тым ліку: | | | У тым ліку: | | |
| Беларусы | 166141 | 81,1% | Праваслаўныя | 107953 | 52,7% |
| Жыды | 20684 | 10,1% | Каталікі | 66294 | 32,4% |
| Расейцы | 12152 | 5,9% | Юдэі | 20732 | 10,1% |
| Палякі | 4928 | 2,4% | Стараверы | 9484 | 4,6% |
| Іншыя | 1018 | 0,5% | Іншыя | 460 | 0,2% |

У гэтых адносінах цікавым было становішча ў Новапагосцкай воласьці, якой беларускае насельніцтва, паводле перапісу з 1921 году, падзялялася амаль у роўнай меры на каталікоў (41,6%) і праваслаўных (40,7%). Такім чынам, абедзьве групы насельніцтва былі тут аднолькава шматлікімі, у сувязі з чым ні адзін, ні другі бок не знаходзіўся ў меншасьці і не адчуваў комплексу непаўнавартасьці. Грамадзкі сэнс такога становішча быў надзвычай важны.

Сацыяльны склад насельніцтва Дзісенскага павету менш адрозніваўся ад паказчыкаў, характэрных для ўсёй Беларусі. Паводле цытаванай статыстыкі, у 1897 годзе пераважную частку складалі сяляне (162 817 чалавек, або 79,5%) і мяшчане (33 014 чалавек, або 16,1%). Колькасьць дваран (8 084 чалавек), купцоў (317 чалавек) і духавенства (233 чалавек) складала разам толькі каля 4% усяго насельніцтва, аднак іх роля ў эканамічным, культурным і палітычным жыцьці была вырашальнай. У прыватнасьці, у іх руках канцэнтравалася значная частка зямлі, тады як сялянства (да 1861 г. прыгоннае) цярпела на вялікую яе нястачу і нярэдка было вымушана арандаваць панскія маёнткі. Адначасова, у выніку слабога разьвіцьця вытворчых сілаў, амаль не існавалі магчымасьці заробкаў у іншых сфэрах народнай гаспадаркі.

Вострыя сацыяльныя супярэчнасьці паглыбляліся нацыянальным прыгнётам. Важную ролю ў гэтай галіне іграла польскае (ці дакладней — апалячанае) і расейскае дваранства, а таксама каталіцкае і праваслаўнае сьвятарства, якое выкарыстоўвала Касьцёл і Царкву для пашырэньня ў беларускім народзе палянафільскіх і русафільскіх ідэяў. Адначасова нізкі ўзровень асьветы беларускага сялянства абмяжоўваў разьвіцьцё нацыянальнай культуры і сьвядомасьці. Заўважым, што на парозе XX ст. на Дзісеншчыне было пісьменнымі 45,7 тыс. чалавек (ува ўзросьце ад 8 гадоў узвыш), што складала толькі 28,9% усяго насельніцтва павету.

Па сутнасьці, не было яшчэ ў той час сьвядомай беларускай інтэлігенцыі, ува ўсякім выпадку, у шырэйшым маштабе. Як пісала ў сваіх успамінах Паўліна Мядзёлка (аднагодка Браніслава Туронка), усю мясцовую інтэлігенцыю можна было пералічыць на пальцах.

> Адны лічылі сябе палякамі і групаваліся ля ксяндза, другія — рускімі. І ксяндзы і папы ўбівалі людзям у галаву перакананьне ў тым, што калі ты католік, ходзіш маліцца ў касьцёл — значыць ты паляк, а калі праваслаўны — дык рускі. Словы ж «Беларусь», «беларус» у той час зусім не ўжываліся ў друку і рэдка ў гутарках. «Северо–западный край» — так называлі нашу бацькаўшчыну. (Мядзёлка Паўліна. Сцежкамі жыцця. Мінск, 1974. С. 9.)

Аднак гэтая дэзынтэграцыйная палітыка памешчыкаў і сьвятарства мела тут даволі абмежаваны абсяг. Праўда, яна садзейнічала захоўваньню традыцыйных падзелаў, аднак не змагла замяніць “тутэйшую” сьвядомасьць сялянскіх масаў якой–небудзь іншай.

Варта яшчэ зьвярнуць увагу на адну акалічнасьць, якая не парушыла мясцовай сялянскай “тутэйшасьці”. Як сьведчаць гістарычныя крыніцы, сялянства Дзісеншчыны не падтрымала Студзеньскага паўстаньня 1863 г. (Смирнов А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. Москва, 1963. С. 215). Гэты факт, а таксама аддаленасьць Дзісеншчыны ад польска–беларускай этнічнай мяжы ў значнай меры абумовілі тут больш памяркоўную дзейнасьць мураўёўшчыны пасьля Студзеньскага паўстаньня. Між іншым, расейскія ўлады ў той час не закранулі ў гэтым павеце ніводнага парафіяльнага касьцёла, тады як, напрыклад, на Беласточчыне зачынілі, разбурылі або перастварылі ў праваслаўныя цэрквы 22 касьцёлы, зьмяншаючы такім чынам агульную іх колькасьць у гэтым раёне амаль на 40%, правакуючы гэтым самым вострыя антаганізмы між аднамоўным беларускім насельніцтвам (гл.: Туронак Ю. Нарыс разьвіцьця школьніцтва на Беласточчыне (1773—1939). С. 730—750 нашага выданьня. — *Рэд.*). Падобныя зьявы на Дзісеншчыне сустракаліся рэдка.

## 2. Зь сямейнай хронікі

Сямейным гняздом Туронкаў здаўна лічылася вёска *Дзянісы*, якая знаходзіцца ў 3—4 кілямэтрах на поўнач ад валаснога і парафіяльнага цэнтру — мястэчка Новы Пагост. Тут, паводле ацэнкі майго дзядзі Яна Туронка (15.03.1978), у 1824 годзе нарадзіўся мой прадзед Сьцяпан Туронак, тут жылі яго бацькі і дзяды. “Яна дужа старынная наша прапрадзедаўшчына, — пісаў дзядзя Ян, — напэўна ёй каля тысячы лет”. Наўрад ці гэты погляд адпавядае гістарычнай дакладнасьці, няма затое сумненьня, што ён адлюстроўвае сямейную традыцыю, зьвязаную з гэтай вёскай.

Паводле гістарычных зьвестак, у XVI ст. Новы Пагост належаў да канцлера Вялікага Княства Літоўскага Лява Сапегі, які ў 1593 годзе пабудаваў тут касьцёл. Зь няпамятных часоў існавала ў Новым Пагосьце і царква — пачаткова праваслаўная, пасьля 1596 году — уніяцкая і ад 1839 году — ізноў праваслаўная. Вельмі праўдападобна, што ў склад землеўладаньняў гэтага магната ўваходзіла і недалёкая вёска Дзянісы.

На працягу вякоў нярэдка мяняўся ўладальнік дзянісаўскіх прыгонных сялян. Аднак перад Студзеньскім паўстаньнем 1863 году вёска ўжо лічылася “казёншчынай”, а яе жыхары на прыгон не хадзілі, адраблялі павіннасьці ў воласьці. Мяркуецца, што такі іх сацыяльны статус датаваўся ад Лістападаўскага паўстаньня 1831 г., калі царскі ўрад канфіскаваў маёмасьць памешчыкаў, якія ўдзельнічалі ў паўстаньні.

Насельніцтва вёскі Дзянісы здаўна было неаднародным у веравызнаўчых адносінах. Паводле перапісу з 1921 году, вёска налічвала 29 двароў з 131 жыхаром, зь якіх было 72 каталікі і 59 праваслаўных (55 і 45%). Не было тут жыдоў і расейскіх старавераў, якіх ува ўсёй Новапагосцкай воласьці налічвалася разам амаль 18%. Цікава заўважыць, што ў часе перапісу 1921 году (польскага!) усе жыхары Дзянісоў акрэсьлілі сваю нацыянальнасьць як беларускую.

З гэтых Дзянісоў адлучыўся на парозе свайго сталага жыцьця прадзед Сьцяпан Туронак, якога ачаравала на год за яго старэйшая Ефрасіньня Гарбачонак зь вёскі Гарбачонкі, што знаходзілася ў адлегласьці каля трох кілямэтраў ад Дзянісоў. Прабабцы Ефрасіньні давялося асабіста перажыць “воссоединение западнорусских униатов”, і, выходзячы замуж, яна лічылася праваслаўнай. Паводле цёткі Фартуні (18.01.1979), іх шлюб адбыўся ў Новапагосцкім касьцёле, можна думаць, каля 1860 году, пасьля чаго прадзед пайшоў у прымакі да жонкі ў яе вёску Гарбачонкі. Ня мог ведаць прадзед Сьцяпан, што гэтая яго пастанова паложыць пачатак бясконцаму бадзяньню нашчадкаў па чужых засьценках...

Вёска Гарбачонкі была напалову меншай за Дзянісы. У 1921 годзе яна налічвала ўсяго 70 жыхароў, у тым ліку 34 каталікоў і 36 праваслаўных. І тут, як у Дзянісах, пражывалі толькі мясцовыя беларусы.

Пасьля адмены прыгоннага права ў 1861 годзе прадзед Сьцяпан атрымаў у Гарбачонках 4 дзесяціны надзельнай зямлі. З часам прыйшла на сьвет чародка дзяцей (чарговасьць няпэўная):

Казімер — найстарэйшы, бацька Сатурніна, Банона і іншых;
Язэп;
Сьцяпан — мой дзед, нарадзіўся каля 1860 г.;
Іаанна (Югася);
Пракседа — замужам Абаровіч, жыла ў Латвіі;
Ігнат — наймаладзейшы, будучы ксёндз.

Невялікая гаспадарка не магла забясьпечыць патрэбаў сям'і, якая налічвала восем душ. Тым больш яна не ствarала ніякай магчымасьці акумуляцыі, што магло быць адзіным сродкам яе разьвіцьця. На месцы дадатковых заработкаў амаль не было, а эміграваць у Сібір ці Амэрыку, відаць, не было ахвоты. Адначасова, у меру росту дзяцей, расла і вытворчая здольнасьць сям'і. У гэтых умовах прадзед Сьцяпан вырашыў арандаваць памешчыцкую зямлю.

У 1875 годзе прадзеды пакінулі Гарбачонкі і пераехалі ў недалёкія *Пестуны* Новапагосцкай воласьці, дзе арандавалі фальварак. У Гарбачонках застаўся сын Сьцяпана, Язэп, які далей гаспадарыў на бацькаўскіх чатырох дзесяцінах. Пасьля яго сьмерці, на прадзедаўшчыне гаспадарыў яго сын Ігнат, які яшчэ ў 1979 годзе жыў у Гарбачонках.

Пестуны не лічыліся нават вёскай, толькі фальваркам, засьценкам. Паводле дадзеных з 1921 году, тут было ўсяго 10 двароў з 73 жыхарамі. Адсюль прадзедавы дзеці паступова разыходзіліся па сьвеце. Выйшлі замуж Югася і Пракседа. У 1907 годзе наймаладзейшы Ігнат паступіў у Віленскую каталіцкую духоўную сэмінарыю, якую закончыў у 1912 годзе. У Пестунах засталіся Казімер і Сьцяпан, якія доўгі час гаспадарылі разам з прадзедам.

Каля 1890 году маладзейшы Сьцяпан Туронак ажаніўся з Канстанцыяй Баркоўскай зь вёскі Шаўляны суседняй Барадзеніцкай парафіі. Стварылася сям'я маіх дзядоў. Бабка была на дзесяць гадоў маладзейшая за дзеда. Жылі яны ў Пестунах каля дзесяці гадоў. Тут нарадзіліся першыя сыны: Уладзіслаў (1892), *Браніслаў* (1896) і Ян (1899).

Расьлі Казімерава і Сьцяпанава сем'і, і ў Пестунах пад адным дахам было цесна. Давялося разьдзяліцца. У Пестунах засталіся Казімер з прадзедам Сьцяпанам, а маладзейшы Сьцяпан з жонкай і сынамі ў 1900 годзе пасяліўся ў *Янопалі*, дзе арандаваў фальварак, які належаў да Уладзіслава Козел–Паклеўскага — нашчадка вядомага на Дзісеншчыне памешчыцкага роду. Праз год (1901) у Пестунах памёр прадзед Сьцяпан. Прабабка Ефрасіньня адышла з гэтага сьвету ўжо ў 80–я гады мінулага стагодзьдзя.

Янопаль знаходзіўся зусім непадалёк родных Гарбачонкаў. Гэта была тыповая пустэча: паводле статыстыкі 1921 году, тут пражывала ўсяго 11 чалавек (усе беларусы–каталікі), з чаго можна зрабіць вывад, што акрамя Туронкаў жылі тут яшчэ 2—3 іншыя асобы. У Янопалі прыйшла чарга на сэрыю дачок — Фартунату (1901), Антаніну (1904) і Агнешку (1906).

У 1908 годзе невядомая прычына прымусіла дзеда Сьцяпана спыніць Янопальскую арэнду і пасяліцца ў недалёкай *Яцкоўшчыне*, дзе на працягу пяці гадоў арандаваў фальварак маскаля Апанаса (прозьвішча не ўстаноўлена). Тут у 1909 годзе нарадзіўся сын Ігнат, які, у адрозьненьне ад усіх дзяцей, быў ахрышчаны ў Барадзеніцкім касьцёле, паколькі Яцкоўшчына была ў складзе гэтай парафіі. У 1913 годзе сям'я ізноў вярнулася ў Янопаль, дзе ў 1916 г. нарадзіўся пяты сын і восьмае дзіця — Віцька.

На арэндах у Янопалі і Яцкоўшчыне, у меру росту сямейнай вытворчай сілы, дзед Сьцяпан паступова разгарнуў даволі значную гаспадарчую дзейнасьць. Паводле сьведчаньня цёткі Антаніны, на гаспадарцы трымалі ў сярэднім 5 коней, 12 кароў, 25 авечак, 50 гусей. Дзед Сьцяпан сам шыў боты, рабіў бочкі, вёдры ды іншыя хатнія прылады і

гаспадарчае абсталяваньне. Жанчыны ткалі сукно на адзеньне і палатно на бялізну. Увогуле, як успамінае цётка, жылося "даволі добра", хоць усе вельмі цяжка працавалі на гаспадарцы. Усе сямейныя сілы былі накіраваныя на ажыцьцяўленьне асноўнай задумы дзеда, якой было імкненьне купіць уласную зямлю. Гэтай ідэі падпарадкоўваўся ўвесь сямейны эканамічны рэжым. Усё паказвала на рэальнасьць гэтай задумы: умовы арэнды (у Янопалі 200 рублёў у год) былі даволі выгадныя, гаспадарка разьвівалася, расла і акумуляцыя. Напярэдадні першай сусьветнай вайны ў дзедавай касе было ўжо 3300 рублёў, аднак зямлі не купіў. Магчыма, хацеў назьбіраць яшчэ больш грошай. У часе вайны, а потым рэвалюцыі грошы абясцэніліся. Потым імі абклейвалі сьцены...

У часе сусьветнай вайны восеньню 1915 г. фронт затрымаўся на лініі Дзьвінск—Браслаў—Паставы—Нарач, у выніку чаго да другога нямецкага наступу ў лютым 1918 году Дзісеншчына знаходзілася ў прыфрантовай зоне на тэрыторыі, якую займалі расейскія войскі. Потым тут былі немцы, чырвонаармейцы і, урэшце, польскія легіёны. Іх бясконцыя рэквізыцыі давялі гаспадарку да руіны. Абарваліся ўсе дзедавы пляны і надзеі, што адмоўна адбілася на ягоным здароўі. Памёр дзед Сьцяпан на запаленьне лёгкіх два тыдні пасьля Вялікадня 1920 году ў 60–гадовым узросьце. Пахавалі на могілках у Новым Пагосьце.

Пасьля сьмерці дзеда, летам 1921 году, вярнуўся ў Янопаль Ул. Козел–Паклеўскі. Туронкам давялося ізноў разглядацца за новай арэндай. Гэтым разам лёс кінуў іх у невялікі засьценак Бірукі, які знаходзіўся ў некалькіх кілямэтрах ад вёскі Дзянісы. Быў гэта, паводле цёткі Антаніны, маёнтак "на 10 сох" (адна "саха" адпавядала колькасьці зямлі, якую можна было апрацаваць адным канём). Арандавалі яго тры сям'і — Вярцінскія (5 сох), Туронкі (3 сахі) і Стацэвічы (2 сахі). У Біруках арэнда трывала каля пяці гадоў. Тут у 1924 годзе памерла бабка Канстанцыя. У панядзелак пасьля Вялікадня захварэла на запаленьне лёгкіх і ў наступны панядзелак памерла. Як дзед Сьцяпан. Пахавалі на могілках у Новым Пагосьце.

Пасьля сьмерці бабкі асірацелыя Туронкі пакінулі ў 1926 годзе ваколіцы Новага Пагосту, дзе была іх прапрадзедаўшчына, і падаліся на поўнач ад возера Абстэрна, у бок Друі. Некалькі гадоў жылі ў маёнтку Дамбравова, дзе арандавалі зямлю пана Ожэха. Сярод іх не было ўжо Фартуні, якая выйшла замуж за Рычарда Вайніловіча ў Забор'е, а таксама Браніслава, які вучыўся ў Вільні. У 1926 годзе жанаты ўжо Ўладзіслаў пасяліўся ў жончынай вёсцы Боўк каля Новага Пагосту.

У Дамбравове галавой сям'і быў 26–гадовы Ян, які апекаваўся малодшымі Антанінай, Агнешкай, Ігнатам і Віцькам. У 1930 годзе Антаніна выйшла замуж за Адама Каравая ў Масальшчыну. Выбыў таксама і Віцька, які вучыўся ў Друйскай гімназіі. Гэтую яго вучобу фінансавала ўся сям'я: Браніслаў плаціў за навуку 25 злотых у месяц, а іншыя пакрывалі кошты кватэры, харчаваньня і г.д.

У 1931 годзе Ян, Агнешка і Ігнат пасяліліся ў Ідольце, дзе арандавалі зямлю пана Сьвідэрскага. Праз два гады Ян ажаніўся і купіў ад Сьвідэрскага 14 гектараў зямлі. У 1934 годзе выйшла замуж Агнешка за Сымона Кабялку ў Боркі, а Ігнат ажаніўся і пайшоў у прымакі да жонкі Янкі ў Стайкі над Дзьвіной. Разам спраўлялі вясельле.

## 3. Юнацтва Браніслава Туронка

### Пачатковая і сярэдняя адукацыя

Браніслаў Туронак нарадзіўся 10 чэрвеня (старога стылю) або 22 чэрвеня (новага стылю) 1896 году ў фальварку Пестуны Новапагосцкай воласьці. Шмат гадоў пазьней яго наймалодшы брат Віцька, які хацеў быць палякам, у фальваркавым паходжаньні дашукоўваўся свайго "шляхецтва". На сьмешнасьць гэтых пажаданьняў Віцькі паказваюць зьвесткі з папярэдняга разьдзелу.

Хрост Браніслава адбыўся 22 чэрвеня (ст. ст.) або 4 ліпеня (н. ст.) 1896 году ў Новапагосцкім касьцёле. Хроснымі былі: ягоны дзядзька Ігнат і Люцыя Сямашка.

У Пестунах Браніслаў жыў чатыры гады. У 1900 годзе сям'я перасялілася ў Янопаль, дзе пачалося яго сьвядомае жыцьцё. Можна думаць, што яно не адрозьнівалася ад жыцьця іншых сялянскіх дзяцей той пары, хіба толькі тым, што ў янопальскай пустэчы бадай не было суседзкіх дзяцей.

Пэўную цікавасьць выклікае справа адукацыі Браніслава. Як ужо ведаем, пры акумуляцыйнай палітыцы дзеда Сьцяпана лічылася ня толькі кожная капейка, але і кожная пара рабочых рук. Аднак, нягледзячы на напружанае матэрыяльнае становішча, ён імкнуўся выпусьціць частку дзяцей "у людзі".

Такую магчымасьць даваў дзед ня толькі Браніславу. Праўда, Уладзіслаў як найстарэйшы сын, згодна з традыцыяй, прызначаўся насьледнікам будучай уласнай гаспадаркі, у сувязі з чым, закончыўшы чатыры клясы народнай вучэльні ў Новым Пагосьце, ён спыніў далейшую адукацыю. У гэтую вучэльню пасылаўся і Ян, аднак — як сьцьвярджала цётка Антаніна — вучыцца ён не хацеў і пасьля двух гадоў перастаў наведваць школу. У галіне адукацыі больш дасягнула Фартуня. Яна закончыла пачатковую школу і падрыхтавалася паступіць у чацьвертую клясу гімназіі, чаму, аднак, перашкодзіла вайна.

Як сьведчыць дзядзька Ян (15.03.1978), Браніслаў вучыўся ў Новым Пагосьце, дзе закончыў шасьціклясную народную вучэльню. У сувязі з гэтай інфармацыяй нельга разумець даслоўна вестку ў пасьмертнай біяграфіі, зьмешчанай у "Шляху Моладзі", паводле якой Браніслаў вучыўся "ўдома". Гэта абазначае, што вучыўся ён жывучы пры бацьках, у сваёй мясцовасьці, а не на пэнсіі.

Няма затое дакладных вестак, у якім часе вучыўся ён у Новым Пагосьце. У гімназію паступіў у 1912 годзе, што паказвае на 2—3 гадавое спазьненьне ў нармальным адукацыйным рытме. Магчыма, у Новапагосцкую школу пачаў хадзіць толькі ў 9—10–гадовым узросьце, дакуль зь Янопаля было каля пяці кілямэтраў. Такая адлегласьць была для малога дзіцяці немалаважнай перашкодай.

Істотную ролю ў далейшай адукацыі Браніслава адыграў ягоны дзядзька Ігнат Туронак, які ў 1907—1912 г. вучыўся ў Віленскай духоўнай сэмінарыі. Паколькі ў час вучобы Ігнат быў ужо круглым сіратою, яго брат Сьцяпан аказваў яму матэрыяльную дапамогу, за што пазьней Ігнат меў дапамагчы Браніславу. Восеньню 1912 году, ужо будучы на парафіі, Ігнат уладкаваў 16–гадовага Браніслава ў чацьвертую клясу віленскай гімназіі і часткова фінансаваў яго вучобу. У гэтым часе Браніслаў атрымаў ад свайго дзядзькі і хроснага, ксяндза Ігната Туронка, чорную "Амэгу"[1] і туалетную скрынку, якія захаваліся да гэтай пары.

Пра вучобу Браніслава ў Вільні дайшлі да нас вельмі скупыя весткі. Паводле біяграфіі (праўдападобна, не аўтарызаванай бацькам), надрукаванай 28 лютага 1928 году ў "Biełaruskaj Krynicy" ("Нашы кандыдаты — Др. Браніслаў Туронак")[2], ён паступіў "у прыватную О.Р.С.О. гімназію, у якой прабыў да заняцьця Вільні празь немцаў". Аб гэтай гімназіі знаходзім наступныя весткі ў "Памятной книжке Виленского учебного округа на 1915 год" (Вильна, 1915. С. 22—23): "Частная, 8–классная, с правами правительственных, мужская гимназия Общества распространения среднего образования" (О.Р.С.О). Гімназія знаходзілася ў наёмным будынку пры Юнкерскім завулку, № 21 (побач Буфаловай гары). Яе дырэктарам быў Фэрдынанд Вэлер, выпускнік фізмат. факультэту Казанскага ўнівэрсытэту.

Аднак, паводле цытаванай "Памятной книжки", гэтая гімназія была заснаваная толькі ў 1914 годзе, з чаго просты вывад, што Браніслаў мог там вучыцца ўсяго адзін год (1914/

---

[1] "Амэга" — кішэнны швайцарскі гадзіньнік. — *А.П.*

[2] Згаданая біяграфія друкавалася перад выбарамі ў польскі сойм, на якіх Браніслаў Туронак выступаў у якасьці кандыдата ў паслы ад Блёку нацыянальных меншасьцяў у Беластоцкай акрузе. — *А.П.*

15), у шостай клясе. Значыць, раней наведваў нейкую іншую гімназію. Цяжка сказаць, якая была прычына пераходу з аднае школы ў іншую. Найхутчэй была яна фінансавая. Гімназія О.Р.С.А. была найтаньнейшая ў Вільні, а плата за навуку ў шостай клясе складала тут 150 рублёў у год. У іншых жа гімназіях навука каштавала амаль столькі, колькі дзед Сьцяпан плаціў у год Козел–Паклеўскаму за арэнду Янопаля.

Летам 1915 году пачаўся наступ нямецкіх войскаў на Ўсходнім фронце. У Вільні ствараліся розныя камітэты, якія займаліся эвакуацыяй насельніцтва, установаў і школаў. У адзін такі камітэт быў накіраваны духоўнымі ўладамі кс. Ігнат Туронак, які з групай уцекачоў выехаў у Арэнбург, дзе выконваў душпастырскія абавязкі (памёр там у 1916 г.). Вось жа, перад сваім выездам ён уключыў Браніслава ў групу эвакуаванай моладзі, якой кіраваў віленскі пэдагог Вінцэнты Віхурскі.

На працягу 1915/16 школьнага году Віхурскі разам із сваімі падапечнымі перабываў у Віцебску, а восеньню 1916 г. пераехаў далей ад зоны ваенных дзеяньняў — у Яраслаўль над Волгай, дзе, відавочна, былі лепшыя ўмовы для навукі і пражываньня. Групай гімназістаў апекаваўся камітэт для ўцекачоў, які дбаў пра іх навуку і матэрыяльныя патрэбы. Як успамінаў пазьней бацька, у гэты ваенны час без дапамогі камітэту вучыцца было амаль немагчыма, нягледзячы на тое, што ён ня быў цалкам адарваны ад сваіх бацькоў. У той час Дзісеншчына яшчэ не была акупаваная немцамі і Браніслаў мог вяртацца дамоў на канікулы.

Такім чынам, у 1915/16 школьным годзе Браніслаў вучыўся ў Віцебскай гімназіі, дзе закончыў сёмую клясу. Тут вясной 1916 г. яго адведала сястра Фартуня, якая пасьля пахаваньня кс. Ігната Туронка вярталася з Арэнбургу дамоў. У кастрычніку 1916 г. Браніслаў уступіў у восьмую клясу яраслаўскай гімназіі Д.Н. Шчогалева. Тут 7 мая 1917 году атрымаў атэстат сталасьці.

Што можна сказаць пра асяродзьдзе, у якім перабываў Браніслаў у часе сваёй вучобы ў гімназіях Вільні, Віцебска і Яраслаўля? Як яно ўплывала на разьвіцьцё яго асабовасьці і поглядаў, асабліва ў аспэкце пазьнейшай зацікаўленасьці бацькі беларускім адраджэнскім рухам?

Перш за ўсё заўважым, што ў выніку самаадданай працы крыху старэйшай генэрацыі будзіцеляў, як Іваноўскага, Луцкевічаў, Уласава, Ластоўскага і іншых, у дзясятыя гады нашага стагодзьдзя на беларускай цаліне зелянела ўжо шматабяцаючая рунь, як жа непадобная да тых парасткаў, якія нясьмела паяўляліся дзясяткам гадоў раней. У гэтых адносінах Браніславу ўжо не даводзілася рабіць вялікіх адкрыцьцяў — трэба было браць тое, што настойліва цярэбіла сабе дарогу ў народ. Да таго і выбар быў не такі ўжо абмежаваны: жыла нацыянальная ідэя, былі беларускія кніжкі і часопісы, адбываліся беларускія канцэрты і вечарыны, выступленьні тэатру Буйніцкага (між іншым, у 1910 г. у Дзісьне) і іншыя мерапрыемствы.

Няма сумненьня, што “Маладая Беларусь” была ў сьвядомасьці Браніслава–гімназіста зьявай натуральнай, можа, пакуль што не заўсёды зразумелай у дэталях. У значнай меры ўплывала на тое атмасфэра бацькоўскага дому: тут ня толькі гаварылі па–беларуску, тут у той час усе лічылі сябе беларусамі. І не ў “тутэйшасьці”, не ў этнаграфіі справа: неўзабаве, у 1919 годзе, старэйшыя сыны дзеда Сьцяпана працягнуць рукі па зброю дзеля абароны роднага краю.

Тым часам, перабываючы ў Вільні, Віцебску і Яраслаўлі, Браніслаў наглядаў і вывучаў тыповыя кантрасты: у гімназіях навучаньне адбывалася па–расейску і ў духу “преданности престолу и отечеству”. Бліжэйшае асяродзьдзе складалася ў асноўным з ураджэнцаў Віленшчыны, большасьць якіх лічыла сябе палякамі. І ўрэшце, побач, а нават супраць гэтых дзьвюх магутных традыцыйных плыняў будзіўся да жыцьця — свой родны, беларускі адраджэнскі рух. Выбар, вядома, быў справай сумленьня, чэснасьці.

У такіх умовах кожны дзень прыносіў нагоды для роздумаў над сваёй нацыянальнай

самабытнасьцю, над ажыцьцяўленьнем нацыянальнай ідэі. Гэтаму спрыяла палітычнае становішча ў першыя гады вайны і, у прыватнасьці, слабасьць царскага рэжыму, які яшчэ ня так даўно выглядаў на ўсёмагутны і непарушны. Асабліва істотнае значэньне мела ў гэтай галіне Лютаўская рэвалюцыя 1917 году, якую Браніслаў сустрэў у Яраслаўлі. Натхняла яна і клікала да дзейнасьці. Гэтаму спрыяла і немалая група беларусаў, якія ў той час перабывалі ў гэтым месьце (М. Багдановіч, Р. Астроўскі і інш.).

Тры месяцы пазьней, у канцы мая 1917 году, ужо з матурай у руках і зь вялікім багажом ідэяў, 21–гадовы Браніслаў вяртаўся праз Маскву і Віцебск у родную Дзісеншчыну.

## Дзейнасьць на Дзісеншчыне 1917—1919 г.

Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі актывізавалася нацыянальная праца і на неакупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі. Арганізаваліся беларускія школы (у акупаваных немцамі раёнах яны ўзьніклі значна раней), ствараліся палітычныя, вайсковыя, культурныя і рэлігійныя ўстановы ды арганізацыі, разьвівалася выдавецкая дзейнасьць.

У гэты рух уключылася і Дзісеншчына. Найбольш актыўнай была тут Беларуская хрысьціянская дэмакратыя (БХД). Як пісаў пазьней яе лідэр кс. Адам Станкевіч, для беларускай адраджэнскай працы наогул і хадэцкай у прыватнасьці былі ў гэтым раёне спрыяльныя ўмовы — перш за ўсё, адпаведныя людзі, а ў іх ліку жменя ідэйных ксяндзоў беларусаў[3].

Істотную ролю ў разбуджэньні беларускага жыцьця на грунце хрысьціянскім на Дзісеншчыне адыграў архібіскуп Эдуард Роп, які, аб'яжджаючы летам 1917 году тую частку сваёй Віленскай дыяцэзіі, якая знаходзілася на ўсход ад расейска–нямецкай лініі фронту, дазваляў гаварыць у касьцёлах казаньні па–беларуску. Заахвочваў ён таксама беларусаў–каталікоў, як духоўных, так і сьвецкіх, закладаць гурткі Хрысьціянскай дэмакратыі, дапасоўваючы яе да беларускае душы. Неўзабаве ўзьніклі гурткі БХД у Дзісьне, Друі, Барадзенічах, Іказьні і Шаркаўшчыне[4].

Першае на Дзісеншчыне казаньне па–беларуску сказаў 20 ліпеня 1917 году кс. Адам Станкевіч у часе візытацыі архібіскупа Э. Ропа ў Дзісьне. Пасьля яны гаварыліся ў Друі (1917—1930), у Ідольце (кс. І. Бобіч, 1917—1920), Шаркаўшчыне (кс. М.Пятроўскі і кс. З. Якуць, 1917—1924), Барадзенічах (кс. В. Шутовіч, 1917—1927) і час ад часу ў Іказьні, Германавічах, Замошы, Мёрах, Далёкіх і Новым Пагосьце[5].

Кс. А. Станкевіч пісаў:

> Гэтыя казаньні рабілі на народ неапісанае ўражаньне. Здалёку ішлі людзі ў тую парафію, дзе спадзяваліся, што будзе беларускае казаньне, а трапіўшы на такое, слухалі з захапленьнем... Пачуўшы словы мовы роднай, твар слухачоў ажывіўся, заясьнеў. Запанавала сьвятая цішыня. Кожнае слова слухачы, здаецца, жыўцом глыталі. Узрушаньне маё сардэчнае хутка ўдзялілася ўсёй велізарнай грамадзе слухаючых, і нямую ціш у касьцёле замяніў нічым ня ўстрыманы плач галосны. Ліліся сьлёзы ручаём многаводным, сьлёзы радасьці і шчасьця з вачэй гаротнага, падняволенага беларуса...[6]

Гэтыя ўмовы і атмасфэра, якія летам 1917 г. сустрэў Браніслаў Туронак на Дзісеншчыне, дазволілі яму належна ацаніць вялікую карысьць беларусізацыі Каталіцкага касьцёла для нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэньня Беларусі. Гэта была важнейшым чынь-

[3] Гл.: [Станкевіч А.] Беларускі хрысьціянскі рух. Вільня, 1939. С. 131.
[4] Тамсама, с. 132—133.
[5] Станкевіч А. Родная мова ў сьвятынях. Вільня, 1929. С. 98—124.
[6] Тамсама, с. 100.

нікам ягоных пазьнейшых сувязяў з БХД. Істотнае значэньне ў гэтай справе і наогул у ягонай далейшай грамадзкай дзейнасьці меў таксама запачаткаваны ў той час асабісты кантакт зь лідэрам БХД — ксяндзом Адамам Станкевічам.

Вельмі праўдападобна, што пад яго ўплывам летам і раньняй восеньню 1917 г. Браніслаў разгарнуў значную дзейнасьць у галіне арганізацыі беларускіх школаў на Дзісеншчыне. Улічваючы тагачаснае ваенна–палітычнае становішча, нельга было спадзявацца на падтрымку ўладаў у гэтай справе. Вось жа, як пішуць кс. А. Станкевіч і Я. Найдзюк у пасьмертных біяграфіях бацькі, Браніслаў Туронак згуртаваў некалькі мясцовых інтэлігентаў і зь іх дапамогай арганізаваў 15 беларускіх пачатковых школаў, якія на працягу двух гадоў (1917/18—1918/19, г.зн. да прыходу палякаў) працавалі на грамадзкіх падставах.

Аднак Браніслаў не спалучаў сваіх плянаў на будучыню з кар'ерай сельскага настаўніка. Яшчэ будучы ў Яраслаўлі ў палове мая 1917 г. ён паслаў прашэньне з дакумэнтамі ў Харкаўскі ўнівэрсытэт з надзеяй паступіць на юрыдычны факультэт. Між іншым, выслаў у Харкаў аргінальны атэстат сталасьці, пакідаючы сабе чатыры копіі, зробленыя 13 мая 1917 г. яраслаўскім натарыюсам. Пастанову аб прыняцьці ўва ўнівэрсытэт атрымаў, відавочна, у Янопалі і ў кастрычніку 1917 г. выехаў у Харкаў. Тут прабыў усяго некалькі тыдняў — ува ўмовах ажыўленьня ваенных дзеяньняў і новай, Кастрычніцкай, рэвалюцыі далейшую вучобу давялося адкласьці да больш спрыяльнага часу.

Позьняй восеньню 1917 г. Браніслаў вярнуўся дамоў. Настаўнічаў у беларускіх пачатковых школах — адзін год у Більдзюгах каля Янопаля (1917/18) і другі — у Новым Пагосьце (1918/19).

Час быў ненадзейны, неспакойны. Пасьля некалькіх месяцаў, калі ніхто дакладна ня ведаў, да каго належыць улада — да белых ці чырвоных, у лютым 1918 г. пачаўся новы наступ нямецкіх войскаў, якія займалі Дзісеншчыну амаль да канца 1918 г. Потым тут былі бальшавікі, а летам 1919 г. прыйшлі палякі.

Усе гэтыя зьмены балюча адчувала мясцовае насельніцтва. Па сутнасьці не абавязвалі ніякія законы, у выніку чаго значна пагоршыліся ўмовы бясьпекі. Пашыраўся хаос, бандытызм, расло бяспраўе, самасуды. Частыя рэквізыцыі, якія праводзіліся арміямі ўсіх "вызваліцеляў", даводзілі сялян да поўнай руіны. У такіх умовах на Дзісеншчыне тварыліся ўзброеныя аддзелы самаабароны, якія ў народзе называліся "зялёнай арміяй". Як інфармавала цётка Антаніна, адзін такі аддзел дзейнічаў і ў ваколіцах Янопаля. У яго склад уваходзілі між іншымі Ўладзіслаў, Браніслаў і Ян Туронкі. Кожны зь іх меў сваю стрэльбу. Гэтая зялёная армія бараніла насельніцтва ад рабункаў і рэквізыцыяў, якія праводзіліся немцамі і бальшавікамі. Часам сілай адбіралася сялянскае дабро, забранае чужымі жаўнерамі.

На падставе апавяданьняў мамы і цёткі Антаніны можна рэканструяваць наступны эпізод. Аднойчы зімою ці раньняй вясною 1919 г. да дзеда Сьцяпана прыехалі чырвонаармейцы і патрабавалі аўса для коней. Дзед адмовіўся і сказаў: "Для беларускага войска даў бы, а вам — ня дам!" Салдаты адышлі, затое праз некалькі дзён арыштавалі дзеда Сьцяпана і ягоных сыноў Уладзіслава, Браніслава і Яна за нелегальнае перахоўваньне зброі. Усіх трымалі пад вартай у адным з пакояў Новапагосцкай школы. На другі дзень прыйшлі ў школу дзеці і расказалі чырвонаармейцам хто іх настаўнік. Тады Браніслава адпускалі на заняткі, а пасьля іх заканчэньня ізноў зачынялі яго ў пакоі для арыштаваных. Так працягвалася тры дні. Потым вызвалілі ўсіх за хабар, які Фартуня прывезла зь Янопаля.

Вясной і летам 1919 г. дзейнасьць "зялёнай арміі" ажывілася, прычым яна набывала напрамак змаганьня за незалежную беларускую дзяржаву. Удзельнікі гэтага руху спадзяваліся на падтрымку Польшчы. У той час якраз пачалася польска–бальшавіцкая вайна, і 19 красавіка 1919 г. польскае войска заняло Вільню. Праз некалькі дзён там была абвешчана адозва Пілсудзкага да жыхароў Вялікага Княства Літоўскага[7], які заявіў між іншым:

[7] Згаданая адозва была абвешчаная 22 красавіка 1919 г. — *А.П.*

Польскае войска прывёў я з сабою на тое, каб скінуць панаваньне гвалту і насільля, каб скінуць уладу, нязгодную з воляй насельніцтва краю. Войска гэтае нясе вам вызваленьне і свабоду. Я хачу даць вам магчымасьць разьвязаць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як вы самі захочаце — безь ніякага гвалту ці націску з боку Польшчы.

Гэтыя словы Пілсудзкага даляцелі праз лінію фронту і ў Дзісеншчыну, выклікаючы вялікія спадзяваньні ў беларусаў, якія стаялі на незалежніцкім грунце. Ды што гаварыць пра дзісенцаў, а ў іх ліку і пра Туронкаў, — неўзабаве сам цэнтральны беларускі актыў з Гаруном і Купалам вітаў у Менску армію Пілсудзкага... Летам 1945 г. дзядзька Ян у размове зы мной так "падсумаваў" гэтую арыентацыю: "Другі раз палякі не ашукаюць!"

Аднак у той час жылі фэдэралістычныя ілюзіі. Усіх прыцягвала Вільня, дзе паводле чутак, якія пранікалі праз фронт, арганізаваліся беларускія ўстановы ды беларускае войска...

У гэтую Вільню вырашыла прабіцца праз лінію фронту група дзісенскіх зялёнаармейцаў, сярод якіх былі Браніслаў і Уладзіслаў Туронкі (няма пэўных вестак аб удзеле ў гэтым мерапрыемстве трэцяга брата — Яна). Выехалі на конях, з стрэльбамі. Аднак ня ўсе дасягнулі мэты. У часе перастрэлкі з чырвонаармейцамі ў Браніслава быў паранены ці мо забіты конь, а яздок — вельмі перапалоханы. Аднаму рухацца далей было небясьпечна. Павесіў тады Браніслаў высока на дрэве сваю стрэльбу з патронамі і пехатой вярнуўся дамоў (гэты эпізод памятаю з расказу бацькі). Хутка ўцёк у Латвію, дзе некалькі тыдняў хаваўся ў сваёй цёткі Праксэды Абаровіч, дом якой стаяў у лесе.

Па нейкім часе дзед Сьцяпан наняў праваднiка, які без асаблівых прыгод перавёў Браніслава праз лінію польска–савецкіх войскаў. Такім чынам, у ліпені 1919 году Браніслаў ізноў апынуўся ў Вільні.

## 4. Зноў Вільня (1919—1928)

Цяжка сказаць, зь якімі намерамі кіраваўся Браніслаў у Вільню. Можна не сумнявацца, што ён ня ведаў нічога пэўнага ня толькі аб праектаваным адкрыцьці ўнівэрсытэту, але нават аб тым, як будзе вырашаны лёс самой Вільні і якая ўсталюецца тут улада — савецкая, польская ці летувіская. Па–другое, не было ўжо ў Вільні дзядзькі Ігната, які дапамагаў яму ў часе вучобы ў гімназіі. Не было таксама іншых пратэктараў, на якіх можна было абаперціся. Мог лічыць толькі на ўласныя сілы, тым больш, што ў выніку ваеннага ліхалецьця выехаў з бацькоўскай хаты амаль з пустымі кішэнямі. Мог яшчэ спадзявацца на ўсьмешку лёсу.

### Настаўніцкі курс

У адным можна не сумнявацца: у Вільні Браніслаў імкнуўся далучыцца да беларускага руху. Таму, прыбыўшы сюды, неадкладна скантактаваўся з ксяндзом Адамам Станкевічам, зь якім летам 1917 году пазнаёміўся на Дзісеншчыне.

Якраз у гэты час, з пачаткам жніўня 1919 году, адчыняўся ў Вільні курс для настаўнікаў беларускіх школаў. Была гэта спрыяльная нагода: можна было ня толькі атрымаць бясплатнае ўтрыманьне на цэлы месяц, паглыбіць здабытыя хатнім спосабам веды ў галіне беларусазнаўства, але і пашырыць знаёмствы, кантакты. Дарэчы, для гэтага былі адпаведныя падставы, паколькі Браніслаў раней настаўнічаў. Такім чынам ён паступіў на гэты курс, які працягваўся чатыры тыдні і закончыўся на пачатку верасьня.

Аб гэтым цікавым мерапрыемстве мне не вядомыя ніякія друкаваныя матэрыялы, у сувязі з чым давялося абмежавацца наступнымі крыніцамі: захаванай у сямейным архіве фатаграмай "Беларускія Вучыцельскія Курсы ў Вільні 1919" і ўспамінамі Веры Карчэўскай (тады Матэйчук), запісанымі ў 1979 г. у Супрасьлі.

Кіраўніком курсаў быў лідэр тагачаснай Беларускай народнай партыі Янка Станкевіч,

які адначасова выкладаў беларускую мову і ўжо тады “славіўся” сваім наватарствам у галіне мовазнаўства (на гэта паказвае, між іншым, правапіс прозьвішчаў курсантаў). Першыя крокі ў галіне беларускай літаратуры рабіў тут Максім Гарэцкі, які карыстаўся хіба найбольшай папулярнасьцю і сымпатыяй курсантаў. Выкладчыкам гісторыі Беларусі быў Вацлаў Ластоўскі — вядомы дзяяч беларускіх сацыялістаў–рэвалюцыянэраў (эсэраў), пазьнейшы старшыня эміграцыйнага ўраду БНР у Коўне і сакратар Беларускай акадэміі навук у Менску. Іншыя прадметы выкладалі А. Дмахоўскі, К. Дуж–Душэўскі, Ждановіч (тэатар), М. Мараўская (псыхалёгію), Кахановіч, Н. Ласковіч. Частка гэтых выкладчыкаў працавала пазьней у Віленскай беларускай гімназіі, якая арганізавалася ўвосень 1919 г.

На памяткавай фатаграме зьмешчаны здымкі 109 курсантаў. Былі гэта пераважна маладыя людзі з розных ваколіц заходняй часткі Беларусі, піянэры беларускага школьніцтва. Сярод іх знаходзім некалькі вядомых постацяў, як, напрыклад, Івана Бялькевіча, пазьнейшага лінгвіста і аўтара “Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны”, Веру Матэйчук і яе сястру Аўгіню — удзельніц антыпольскага паўстанчага руху на Беласточчыне ў 1921—1922 г., а таксама Уладзіслава Казлоўшчыка, аўтара некалькіх зборнікаў паэзіі, пазьнейшага дзяяча партыі беларускіх нацыянал–сацыялістаў і рэдактара “Беларускай Газэты”, якая выдавалася ў Менску ў часе нямецкае акупацыі 1941—1944.

Гэты настаўніцкі курс быў ня толькі месцам павышэньня пэдагагічных кваліфікацыяў настаўнікаў, але і своеасаблівай школай грамадзкіх дзяячоў, а нават партыйнай “біржай”. Найбольшую актыўнасьць праяўлялі тут эсэры (Ластоўскі, Дуж–Душэўскі і іншыя), дзейнічалі народнікі, хадэкі. Усе гэтыя партыі імкнуліся пашырыць свае ўплывы на настаўнікаў, з чым спалучаліся іх надзеі на разьвіцьцё дзейнасьці на вёсцы.

А цяпер некалькі слоў пра курсанта Браніслава Туронка. Цытуем успамін Веры Матэйчук, пазьнейшай Карчэўскай:

> Туронак быў вясёлы, не прапускаў ніводнай танцавальнай вечарынкі. Нечым адрозьніваўся ад іншых. Заўсёды любіла зь ім гаварыць. Сымпатычны быў. Мяне тады ўжо моцна пацягнула рэвалюцыйная дзейнасьць, была вялікай энтузіясткай Ластоўскага і яго ідэалёгіі. Крыху агітавала і Туронка, але ён не выказваў ніякага зацікаўленьня гэтым кірункам.

Здаецца, што ніякага асаблівага зацікаўленьня не праяўляў Браніслаў і іншымі “кірункамі” і не ўлучаўся ні ў якую партыйную працу. Паводле Веры Матэйчук, не прапагандаваў нават Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, чаго можна было спадзявацца, беручы пад увагу ягоную ранейшую і пазьнейшую дзейнасьць. Праўдападобна, больш вузкапартыйных праграмаў цаніў агульнанацыянальную плятформу і практычную дзейнасьць, накіраваную на ўмацоўваньне ў народных масах нацыянальнае сьвядомасьці. Безь яе любы прагрэс мог адбывацца толькі на карысьць польскіх або расейскіх інтарэсаў.

### На Віленскім унівэрсытэце

Якраз у летнія месяцы 1919 г. адбывалася падрыхтоўка да адчыненьня Віленскага ўнівэрсытэту, які быў зачынены расейскімі ўладамі яшчэ ў 1832 г. Між іншым, праводзілася рэгістрацыя кандыдатаў на студэнтаў. Браніслаў вырашыў паступіць на мэдыцынскі факультэт.

У студэнцкай асабовай папцы Браніслава Туронка, якая захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літоўскай ССР, знойдзены “Апытальнік для кандыдатаў на студэнтаў”, запоўнены Браніславам 4–га жніўня 1919 году. Гэтая дата сьведчыць аб тым, што, паступаючы на настаўніцкі курс, ён меў ужо іншыя намеры, чым праца ў школе. Такім чынам, акрамя агульнай падрыхтоўкі ў галіне беларусаведы, курс даваў Браніславу магчымасьць афармляць на месцы ўсе неабходныя справы, зьвязаныя з паступленьнем на

ўнівэрсытэт. У апытальніку Браніслаў падаў крыху дадзеных аб сваім матэрыяльным становішчы. Між іншым акрэсьліў свае гадавыя расходы на суму 5000 марак, заўважыў, што яго ўласныя сродкі недастатковыя для пакрыцьця гэтых расходаў, выказаў жаданьне атрымаць стыпэндыю і месца ў інтэрнаце.

26 верасьня 1919 г. Браніслаў злажыў фармальнае прашэньне і неўзабаве быў ужо студэнтам. 22 кастрычніка атрымаў індэкс Віленскага ўнівэрсытэту № 00012. Як успамінае мама, ён меў студэнцкую легітымацыю № 6. Такім чынам, Браніслаў Туронак быў адным зь першых студэнтаў адноўленага ўнівэрсытэту.

Так пачаліся студэнцкія гады Браніслава. Праходзілі яны ў складаных палітычных умовах. Першы курс студыяў адбываўся ўва ўмовах польскай улады (1919/20). У палове ліпеня 1920 г. Вільню заняла Чырвоная Армія, а ў жніўні места было перададзена Летуве[8]. Пасьля "цуду над Віслаю" (15.08.1920) пачаўся новы наступ польскіх войскаў, якія пакуль што Вільні не чапалі. У кастрычніку 1920 г. быў інсцэнаваны "бунт" Жалігоўскага, войскі якога занялі Вільню (09.10.1920) і абвясьцілі яе сталіцай Сярэдняй Літвы — "дзяржавы", якая складалася з трох паветаў. На пачатку 1922 г. Вільня была далучаная да Польшчы[9].

Усе гэтыя зьмены ня мелі істотнага ўплыву на ход унівэрсытэцкіх заняткаў. Можа, толькі восеньню 1920 г. пачаліся яны зь невялікім спазьненьнем. Потым становішча стабілізавалася, і Браніслаў вучыўся безь ніякіх перапынкаў. Поўны курс мэдыцынскага факультэту закончыў летам 1924 году.

Незайздросным было матэрыяльнае становішча студэнта Туронка, якое пасьля сьмерці бацькі ў 1920 г. значна пагоршылася. Канікулы праводзіў у Янопалі, працуючы на гаспадарцы. Ад сям'і атрымоўваў саматканую вопратку і бялізну, харчовыя прадукты (перш за ўсё мяса), крыху грошай. У Вільні займаўся карэпэтыцыямі, паколькі стыпэндыі не атрымоўваў. Стала адчуваў нястачу грошай і эканоміў іх на чым толькі мог, нават на чыгуначных білетах. Аднойчы прыйшоў зь Вільні ў Янопаль пехатой — гэтую адлегласьць (каля 200 км) "адмахаў" у чатыры дні.

У часе вучобы пражываў у прыватных кватэрах, за што плаціў часткова грашыма, а часткова сушанымі баравікамі. Вось некалькі ягоных тагачасных адрасоў: 4 жніўня 1919 г. жыў на Дабрачынным завулку (цяпер Лабдару), № 2а, кв. 7; у кастрычніку 1919 г. — на Набережнай вуліцы (цяпер Пажэлас), № 12, кв. 6; будучы на трэцім курсе, вясной 1922 г., жыў на вуліцы Скапоўка, 9, кв. 9; а ў лютым 1924 г. — на Львоўскай, 12, кв. 2.

Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту і двухгадовай практыкі Б. Туронак атрымаў урэшце дыплём доктара лекарскіх навукаў. З гэтай нагоды "Сялянская Ніва"* зьмясьціла 11 ліпеня 1926 г. наступную інфармацыю:

> У суботу 3 ліпеня с.г. у аўлі калюмновай Віленскага ўнівэрсытэту адбылася прамоцыя на доктара ўсіх лекарскіх навук рэдактара "Крыніцы", а цяперашняга супрацоўніка "Беларускай крыніцы" Браніслава Туронка.

Пасьлядыплёмны стаж адбываў Браніслаў у "Літоўскай клініцы" на Віленскай вуліцы пад кіраўніцтвам доктара Лігейкі. Афіцыйны дазвол на выконваньне лекарскай практыкі атрымаў 17 мая 1927 г., пасьля чаго ў гэтай жа клініцы працаваў да вясны 1928 году.

---

[8] Перадача бальшавікамі Вільні літоўцам адбылася згодна з умовамі савецка–літоўскай дамовы ад 12 ліпеня 1920 г. — *А.П.*

[9] Вільня была афіцыйна далучаная да Польшчы 20 лютага 1922 г. пасьля адпаведнае пастановы Віленскага сойму. Фармальнае ж прызнаньне гэтага акту з боку Лігі нацыяў адбылося толькі 15 сакавіка 1923 г. — *А.П.*

* Газэта "Biełaruskaja Krynica" (назву "Krynica" яна насіла да 1925 г.) была органам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі Адама Станкевіча, а "Сялянская Ніва" — Беларускага сялянскага саюзу Фабіяна Ярэміча. — *А.П.*

## Беларускі студэнцкі саюз

Як паведамляў “Наш Шлях”[10], Беларускі студэнцкі саюз (БСС) пры Віленскім унівэрсытэце быў арганізаваны ў сьнежні 1921 г. перад самымі калядамі, а яго нармальная дзейнасьць пачалася ў студзені 1922 г. У гэты час Браніслаў быў на трэцім курсе мэдыцыны.

Задума стварыць беларускую студэнцкую арганізацыю пры Віленскім унівэрсытэце ўзьнікла крыху раней. Паводле цытаванага “Нашага Шляху”[11], яшчэ ў 1920/21 навучальным годзе студэнты беларусы пачалі думаць аб сваёй арганізацыі. Было праведзена некалькі сходаў, на якіх быў апрацаваны статут арганізацыі пад назовам “Гурток студэнтаў беларусаў”. Аднак атрымалася затрымка з зацьверджаньнем статуту, які да канца гэтага акадэмічнага году ня быў перададзены на паседжаньне ўнівэрсытэцкага сэнату.

Восеньню 1921 г. быў апрацаваны новы статут арганізацыі, якая гэтым разам атрымала новы назоў — “Саюз студэнтаў беларусаў”. Крыху пазьней быў выбраны Выканаўчы камітэт студэнтаў, заданьнем якога былі стараньні аб зацьверджаньні статуту. Далейшая працэдура адбывалася бязь цяжкасьцяў, і ў сьнежні 1921 году статут быў зацьверджаны ўнівэрсытэцкім сэнатам. У склад першай управы Саюзу, выбранай на арганізацыйным сходзе, уваходзілі студэнты–мэдыкі: Антон Абрамовіч (старшыня), Тодар Куніцкі (сакратар), Браніслаў Туронак (скарбнік), С. Малафееў і С. Грынкевіч (сябры ўправы). Пры БСС былі арганізаваныя культурна–асьветная, выдавецкая і навуковая сэкцыі, а таксама бібліятэка–чытальня.

Значную ролю ў заснаваньні і дзейнасьці Беларускага студэнцкага саюзу адыграў Браніслаў Туронак, на што паказваюць ягоныя пасьмертныя біяграфіі ў “Chryścjanskaj Dumcy”[12] і “Шляху Моладзі”[13], а таксама ўспаміны ягоных калегаў–мэдыкаў і актыўных дзеячоў БСС — Міколы Марцінчыка і Францішка Пяткевіча, дасланыя аўтару 12 верасьня і 3 кастрычніка 1978 г. Ужо ў першыя свае студэнцкія гады ён гуртаваў вакол сябе студэнтаў Віленскага ўнівэрсытэту, зь якіх пасьля арганізаваўся Беларускі студэнцкі саюз. Акрамя працы ў яго ўправе, Б. Туронак быў адказным рэдактарам органа БСС — месячніка “Наш Шлях”, выпуск якога пачаўся ў сакавіку 1922 г.

Узьнікае істотнае пытаньне: адкуль у небагатых студэнтаў былі сродкі на выдаваньне свайго часопіса? У гэтай сувязі цікавую і важную інфармацыю падае сам “Наш Шлях” (№ 2—3) у выглядзе наступнага сьпісу ахвярадаўцаў (у польскіх марках):

> Знамяроўскі — 10 000, кс. Германовіч — 5000, кс. Станкевіч — 1000, кс. Жук — 1000, Тарашкевіч — 1000, Луцкевіч — 1000, Латышонак — 1000, Грынкевіч — 1000, Дзімітрыеў — 650, Красінскі — 500, Пяткевіч — 500, Туронак — 200, Абрамовіч — 100, Русецкая — 100 і тры невядомыя асобы — 400. Разам: 23 450 м.

З гэтага бачым, што асноўную ролю ў фінансаваньні выпуску “Нашага Шляху” адыгрывалі ахвяраваньні Знамяроўскага — тагачаснага рэдактара хадэцкай “Крыніцы” і ксяндзоў Германовіча, Станкевіча і Жука. Разам яны складалі 17000 польскіх марак, г.зн. амаль 75% усіх ахвяраваньняў. Адсюль няцяжка зразумець, што матэрыяльнай базай “Нашага Шляху” была беларуская хадэцыя, а ідэйна–палітычным дыспанэнтам часопіса быў яе лідэр, кс. Адам Станкевіч.

Гэтая акалічнасьць, відаць, абумовіла і тую “значную ролю”, якую Туронак граў у БСС і яго ўправе. Таксама яна паказвае на тое, што ранейшае яго знаёмства з кс. А. Станкевічам набывала ўжо канкрэтны характар і выражалася ў цесным супрацоўніцтве. Усё ж Б. Туронак ня быў тады, прынамсі фармальна, сябрам БХД, на што паказвае

[10] Наш Шлях. 1922. № 2—3. Красавік—май. С. 25.
[11] Тамсама. 1922. № 1. Сакавік.
[12] Chryścjanskaja Dumka. 10.10.1938.
[13] Шлях Моладзі. 1938. 26 кастрычніка.

сьведчаньне М. Марцінчыка аб яго беспартыйнасьці.

Факт, што за сьпінай "Нашага Шляху" стаяла БХД, дазваляе меркаваць, што яна і была асноўнай крыніцай інсьпірацыі арганізатараў Студэнцкага саюзу. Аб гэтым сьведчыць перш за ўсё агульнанацыянальная і культурна–асьветніцкая плятформа БСС, а таксама яе адмоўнае стаўленьне да вузкапартыйнай дзейнасьці. "Наша арыентацыя, — пісаў "Наш Шлях" у № 2—3, с. 23, — гэта не арыентацыя на Польшчу, Расею, Летуву ці кагось іншага, а на беларускі народ". Дзеля гэтага вясной 1922 г. БСС і яго орган вымушаны былі адбіваць атакі палянафільскай "Краёвай сувязі" П. Алексюка, а таксама газэты "Беларускі Звон", якую выдаваў Францішак Аляхновіч.

На падставе хронікі, зьмешчанай у № 2—3 "Нашага Шляху", можна атрымаць пэўнае ўяўленьне аб напрамках працы БСС у вясеньнія месяцы 1922 г. Найбольшую ўвагу ўправы і актыву прыцягвала: выдаваньне свайго часопіса, рэпрэзэнтацыя БСС навонкі, арганізацыя штотыднёвых публічных лекцыяў, а таксама экскурсіяў і вечароў мастацкае самадзейнасьці.

Між іншым, 25 мая 1922 г. БСС наладзіў у Вільні вечар у сувязі з прыездам сына А. Міцкевіча — Уладзіслава, а 28 мая — лекцыю кс. А. Станкевіча "Гістарычныя пачаткі Беларусі і яе самабытнасьць". 28 мая ў залі Беларускага музыкальна–драматычнага гуртка адбылася вечарына з пастаноўкай "Лесу" ["Лес шуміць". — *Рэд.*] Караленкі і выступленьнем беларускага хору пад кіраўніцтвам Альбіна Стэповіча. На 4—5 чэрвеня 1922 г. плянавалася экскурсія–маёўка ў Трокі ("з удзелам старэйшага грамадзянства і калегаў палякоў").

Значную цікавасьць выклікае наступнае паведамленьне "Нашага Шляху"[14]:

> 16 красавіка г.г. была дэлегацыя (кал. Абрамовіч і Пяткевіч) ад Саюзу ў начальніка Польскае дзяржавы Я. Пілсудзкага. Начальнік Гаспадарства надта цікавіўся працай нашага Саюзу, а асабліва выдавецтвам часопісі, каторую прасіў прысылаць.

Аб гэтай візыце М. Марцінчык напісаў наступнае[15]:

> Антон Абрамовіч і Франук Пяткевіч у 1923 годзе, паколькі я памятаю (памылка — павінна быць у 1922 г. — *Ю.Т.*), хадзілі на аўдыенцыю да Ю. Пілсудзкага. Аб чым яны гутарылі, я ня ведаю. Яны хадзілі самачынна. Ніхто аб гэтым ня ведаў. І ні перад кім яны не адлічваліся. Гэта былі людзі экстравагантныя — кожны ў сваім стылі і таму зрабілі такую вылазку.

Як бачым, абедзьве інфармацыі супярэчлівыя. Відаць, аднак, гэтая візыта не была толькі "вылазкай", калі "Наш Шлях" акрэсьліў яе як "дэлегацыю ад Саюзу". Таксама малапраўдападобна, што "ніхто аб гэтым ня ведаў", паколькі аб візыце ў Пілсудзкага паведамлялася ў друку. Справа цікавая і няясная, а яе разгадка чакае свайго дасьледчыка. Нельга, аднак, выключыць і такую магчымасьць, што Марцінчык спрабаваў крышку "паправіць" гісторыю, між іншым, з увагі на сваю пазьнейшую дзейнасьць у Грамадзе.

З "Нашым Шляхам" супрацоўнічалі Натальля Арсеньнева, Мікола Марцінчык, Зоська Верас, С. Радзіміч, С. Дрыгуновіч, Л. Леўскі, П. А., Франук Маркотны і іншыя. Пад мянушкай Зоська Верас выступала вядомая Людвіка Сівіцкая–Войцікава. Псэўданімам Франук Маркотны або Ф.М. паслугоўваўся Францішак Пяткевіч[16], а Б. Туронак, паводле няпэўных вестак, пісаў пад псэўданімам С. Радзіміч.

З пачаткам чэрвеня 1922 г. рэдакцыя "Нашага Шляху" перайшла на Віленскую, 12. Раней яна зьмяшчалася на вуліцы Біскупскай, 12. Вясною 1923 г. часопіс перастаў выходзіць. Ці паўплывала на тое партыйная барацьба, ці іншыя прычыны — пакуль што невядома.

[14] Наш Шлях. 1922. № 2—3. Красавік–май. С. 26
[15] Ліст да аўтара ад 12.09.1978.
[16] Тамсама.

Аднак БСС працягваў сваю дзейнасьць. Як паведамляла газэта “Змаганьне”* (25.02.1923), 18 лістапада 1923 г. адбыўся агульны сход студэнтаў беларусаў Віленскага ўнівэрсытэту, які выбраў новую ўправу Студэнцкага саюзу ў наступным складзе: І. Лабанец (старшыня), А. Зянюк (намесьнік старшыні), Т. Куніцкі (сакратар), Б. Туронак (скарбнік) і М. Марцінчык (сябра ўправы). Адначасова была выбраная рэвізійная камісія, у якую ўвайшлі Вера Тарашкевіч, Альбін Стэповіч і П. Трэмбовіч.

На заканчэньне яшчэ два выказваньні М. Марцінчыка:

> Сьпярша Беларускі студэнцкі саюз меў напрамак і думкі, калі можна так сказаць, як і ўсё жыцьцё беларускае, — агульнабеларускі, дбаючы аб грамадзкім, нацыянальным і культурным разьвіцьці беларусаў, дбаў аб разьвіцьці нацыянальнай сьвядомасьці шырокіх пластоў народу, дбаў аб разьвіцьці беларускіх школаў, дабрабыту. Пасьля Студэнцкі саюз пахіліўся ўправа...[17].
>
> ***
>
> Як я паступіў на першы курс мэдыцыны, то ён (Б. Туронак. — *Ю.Т.*) быў на трэцім курсе мэдыцыны — значыць мы разам вучыліся і разам былі ў Беларускім студэнцкім саюзе. Гэта быў чалавек дадатні ў кожным сэнсе: сьвядомы беларус, апалітычны, спакойны, беззаганны сябра, культурны, працавіты. Ён добра вучыўся і, лічы, кожны дзень быў у памешканьні Студэнцкага саюзу. Адным словам, калі б усе людзі былі як с.п. Браніслаў Туронак, то быў бы рай на зямлі[18].

## З рапартаў польскай контравыведкі

Ніжэй прадстаўлена інфармацыя, зьмешчаная ў выдадзенай у студзені 1928 г. польскім Генэральным Штабам справаздачы “Krótki zarys zagadnienia białoruskiego” (захоўваецца ў бібліятэцы Варшаўскага ўнівэрсытэту, сыгнатура 324176 сім), была для мяне ашаламляльнай і амаль неверагоднай. Усё ж нельга абысьці яе маўчаньнем, паколькі яна знайшла адлюстраваньне ў рапарце славутай “Двойкі” (С. 264—266). Падаем яе зь невялікімі скарачэньнямі ў перакладзе на беларускую мову:

> У лютым 1924 г. у Менску паўстаў Беларускі рэвалюцыйны камітэт у выніку зьезду, на якім эсэры аб’ядналіся з камуністамі.
>
> Мэтай Беларускага рэвалюцыйнага камітэту было імкненьне арганізаваць узброенае паўстаньне на польскай Беларусі, адарваць ад Польшчы абшары па Буг і Нарву і далучыць іх да савецкай Беларусі.
>
> Кіруючы цэнтар Беларускага рэвалюцыйнага камітэту знаходзіўся ў Менску. У яго склад уваходзілі: Берднік, Бадунова, Хануцкі, Дабаль, Каліноўскі, Кароль, Мамонька, Асьвенцімскі, Пашкевіч (старэйшы), Хмара–Разумовіч, Шолкаў і Трафімаў. Дэлегатамі ад Заходняй Беларусі былі: Косьцевіч Макар, Козіч, Лагіновіч, Мятла Пётар, Родзевіч, Русак і Жылка.
>
> Арганізацыя змагла пакрыць сеткай сваіх “ячэек” Віленшчыну і Наваградчыну. У Віленскім ваяводзтве асабліва значна яна разьвілася ў Дунілавіцкім, Дзісенскім, Ашмянскім, Вялейскім і Валожынскім паветах.
>
> Беларускі рэвалюцыйны камітэт стварыў тэрарыстычныя атрады, арганізаваў на тэрыторыі савецкай Беларусі дывэрсійна–паўстанчыя банды, якія, паводле дырэктываў зь Менску, нападалі на польскія пагранічныя заставы, маёнткі і г.д. Апрача таго, праектавалася ўзрываньне мастоў, нішчэньне чыгункі і г.д.
>
> Апрацоўваючы плян паўстаньня, было падумана і аб афіцэрскіх кадрах. Яны мелі рэкрутавацца зь беларусаў — сяброў Беларускай вайсковай камісіі і былой Слуцкай брыгады, афіцэраў Войска польскага і іншых. На першы кліч усе гэтыя афіцэры мелі адправіцца ў акрэсьленыя мясцо-

* Газэта “Змаганьне” выходзіла з 28 кастрычніка 1923 г. па 31 студзеня 1924 г. пад рэдакцыяй Міколы Шылы. — *А.П.*

[17] Тамсама.

[18] Зь ліста М. Марцінчыка да Людвікі Войцікавай, якая пераслала мне гэтую цытату 10.06.1978 г.

васьці і ўзняць камандаваньне над паўстанчымі аддзеламі. Разам з афіцэрамі–беларусамі мела пакінуць Войска польскае значная колькасьць салдатаў–беларусаў.
Праектаваліся напады з тэрыторыі Літвы, савецкай Беларусі і нават Латвіі. Апрача таго, беларусы скантактаваліся з украінскімі паўстанчымі атрадамі. Узбраеньне і ваенныя матэрыялы мелі пастаўляцца з СССР і Нямеччыны.
Як было ўстаноўлена, у паўстаньні мелі ўдзельнічаць наступныя афіцэры: Анусевіч, Бендрык, Берднік, Бандарчук, Булыгін, Гаўрыловіч, Андрэй Якубецкі, палкоўнік Езавітаў, Канапелька, Каршун, Корзун, Косьцевіч, Машчынскі, Навумовіч, Новікаў, Ян Пашкевіч, Плескачэўскі, Пракаповіч, Міхал Русак, Канстанцін Сак, Сарока, Сыманенка, Шкляроўскі, Сьвятагор–Штэпін і Браніслаў Туронак.
У канцы красавіка 1924 г. арганізацыя была выкрытая польскімі адміністрацыйнымі ўладамі.

Ці і наколькі гэтая інфармацыя польскай контравыведкі адпавядала рэчаіснасьці? Як паказваюць пасьляваенныя распрацоўкі беларускіх гісторыкаў, агульнае становішча польскі Генэральны штаб ацэньваў даволі правільна[19]. Цяжка затое сказаць што–небудзь пэўнае аб арганізатарах і ўдзельніках праектаванага паўстаньня, а ў іх ліку і пра Браніслава Туронка. Яго сувязі з БХД хіба не стаялі на перашкодзе, тым больш, што палітычны аўтарытэт Савецкай Беларусі дасягаў тады свайго апагею. Праўда, Туронак не служыў у арміі і афіцэрам ня быў, але ня можна выключыць, што як студэнт пятага курсу мэдыцыны намячаўся арганізатарам санітарнай службы.

Усё гэта, вядома, толькі здагадкі, якія яшчэ ні аб чым ня сьведчаць. Нельга выключыць і таго, што прозьвішча Туронка ў гэтым афіцэрскім сьпісе знайшлося выпадкова, што нейкі інфарматар “Двойкі” проста перастараўся. Усё ж, відаць, ён ня быў цалкам “чысты”, аб чым можна меркаваць з наступнага даручэньня, якое ў 1924 г. атрымаў пастарунак паліцыі ў Германавічах: “Устанавіць месца пражываньня Браніслава Туронка”. Гэтая запіска захоўваецца ў актах судовай справы Туронка ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літоўскай ССР.

### Судовыя справы рэдактара “Крыніцы”

На пятым курсе ўнівэрсытэцкіх студыяў дыяпазон грамадзкай дзейнасьці Браніслава Туронка пашырыўся. Як ужо заўважалася, 18 лістапада 1923 г. ён увайшоў у склад новай управы Беларускага студэнцкага саюзу, а некалькі дзён раней быў выбраны сакратаром Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, дзе старшынём быў кс. А. Станкевіч[20].

У сьнежні 1923 г. Б. Туронак стаў адказным рэдактарам “Крыніцы”, якім да гэтага часу быў У. Знамяроўскі. Першы нумар “Крыніцы”, які быў падпісаны да друку рэдакта-

[19] Сапраўды, большасьць матэрыялаў польскай выведкі адзначаецца даволі глыбокім аналізам агульнай сытуацыі і, што ня менш істотна, грунтоўным веданьнем фактычнага боку справы. Аднак жа нярэдка ў бягучых справаздачах і аналітычных распрацоўках II аддзелу Генэральнага штабу сустракаюцца і пэўныя недакладнасьці па прычыне атрыманьня першаснай інфармацыі зь неймаверных крыніцаў. Мяркуючы па характары пададзенай Аўтарам інфармацыі пра Беларускі рэвалюцыйны камітэт, яна была, хутчэй за ўсё, атрыманая II аддзелам ад кагосьці з уласных канфідэнтаў. Трэба мець на ўвазе, што апошнія не заўсёды добрасумленна выконвалі даручаныя ім заданьні і часам сьвядома дэзынфармавалі сваё начальства. Найбольш характэрнай у гэтым сэнсе выглядае сытуацыя з працай на II аддзел Генэральнага штабу вядомага беларускага дзяяча Вячаслава Адамовіча (Дзергача). Інфармацыю пра прыдуманую ім антыпольскую арганізацыю “Камітэт чыну” Дзергачу ўдавалася пасьпяхова прадаваць польскім спэцслужбам на працягу некалькіх гадоў (падрабязьней гл.: Пашкевіч А.В., Чарнякевіч А.М. Атаман Дзяргач: невядомыя старонкі біяграфіі, ці Да гісторыі палітычнага авантурызму ў беларускім нацыянальным руху // Берасцейскі хронограф. 2004. Вып. 4. С. 314—334). — *А.П.*

[20] Змаганьне. 1923. 8 лютага.

рам–выдаўцом Б. Туронкам (№ 15), выйшаў 10 сьнежня 1923 году, а апошні № 35 — 23 жніўня 1925 г. Такім чынам, у гэтай рэдакцыі працаваў ён 1 год і 8 месяцаў.

“Крыніца” прызначалася ў асноўным для беларусаў–каталікоў. Яна лічылася органам беларускай хадэцыі, аднак рэдакцыя не падкрэслівала партыйнасьці сваёй газэты. Замест гэтага ў падзагалоўку падавалася: “Тыднёвая сялянская газэта”. Выдавалася з 1917 г. пачаткова ў Петраградзе і ў Менску, а з 1919 г. — у Вільні. Друкавалася лацінкай. Рэдакцыя зьмяшчалася пры вуліцы Завальнай, 7. Шырэй гісторыю “Крыніцы” прывёў А. Станкевіч[21].

“Крыніца”, падобна як усе віленскія беларускія газэты, была мерапрыемствам дэфіцытным і патрабавала грашовае дапамогі. Субсыдыявалася яна часткова беларускімі ксяндзамі, якія працавалі ў Заходняй Беларусі, і часткова — эміграцыйным урадам Ластоўскага ў Коўне[22].

Як казала цётка Антаніна, да працы ў “Крыніцы” Браніслава заангажаваў ксёндз Адам Станкевіч. Мама лічыла, што ён быў толькі фармальным “зіцрэдактарам” (рэдактарам для адседкі), які адказваў перад уладамі за зьмест тыднёвіка. Магчыма, за гэтае рэдактарства Браніслаў атрымоўваў крыху грошай, якімі латаў свой студэнцкі бюджэт. Аднак акрамя “зіцрэдактарства” Б. Туронак займаўся і публіцыстыкай, зьмяшчаючы ў “Крыніцы” свае матэрыялы пад псэўданімам “Тамашні”.

Аб умовах працы Туронка як рэдактара “Крыніцы” красамоўна сьведчыць наступны факт: зь ліку 20 нумароў, падпісаных ім да друку, польскія ўлады канфіскавалі 9, зь якіх у 1924 г. — 4 і ў 1925 г. — 5[23]. У 1924 г. ён быў упершыню прыцягнуты да судовай адказнасьці за рэдагаваную газэту. Гэтым разам справа закончылася толькі грашовым штрафам.

У 1925 г. значна павялічыліся канфлікты паміж “Крыніцай” і ўладамі, якія мелі сур’ёзнае значэньне як для самой газэты, так і для яе рэдактара. Адбываліся яны на фоне змаганьня за беларускую мову ў касьцельных набажэнствах у Жодзішках. Генэзу гэтае справы прывёў Адам Станкевіч у сваёй кніжцы “Родная мова ў сьвятынях” (Вільня, 1929. С. 153—162), якая перадаецца тут у вялікім скарачэньні[24]:

> У 1921 годзе пробашчам парафіі ў Жодзішках быў назначаны кс. Вінцук Гадлеўскі. Пазнаўшы сваю парафію, якая ў велізарнай большасьці была беларуская, 7 верасьня 1924 г. пачаў ён гаварыць казаньні на беларускай мове.

Паводле А. Станкевіча,

> сярод народу з казаньняў у роднай мове было задаволеньне неапісанае. Касьцёл заўсёды быў біткам набіты. Былі толькі нездаволены кругі дворскія і ўрадавыя. У выніку гэтага палітычнага нездаволеньня Дэлегат польскага ўраду ў Вільні зьвярнуўся да біскупа Матулевіча, каб спыніць шкодную, як казаў, для Польшчы дзейнасьць кс. В. Гадлеўскага.

Пачалася перапіска паміж кс. Гадлеўскім і бп. Матулевічам, у выніку якой біскуп паслаў у Жодзішкі камісію, якая павінна была на месцы дасьледаваць справу. У склад камісіі ўваходзілі тры ксяндзы–палякі. Не была яна аб’ектыўнай. Адначасова польская паліцыя пачала адпаведную “апрацоўку” ксяндза Гадлеўскага. На працягу 1925 г. ён быў арыштаваны двойчы: у чэрвені і ў верасьні, а ў сакавіку 1926 г. ён быў прысуджаны да двухгадовага турэмнага зьняволеньня.

---

[21] Беларускі хрысьціянскі рух. Вільня, 1939. С. 211—219.

[22] Гл.: Krótki zarys zagadnienia białoruskiego. S. 167.

[23] Беларускі хрысьціянскі рух. С. 216.

[24] Падрабязьней пра разьвіцьцё жодзіскае справы можна даведацца з наступных публікацыяў: Zatarg o język kazań w Żodziszkach w kwietniu 1925 roku (dokumenty wybrał i opracował J. Tomaszewski) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1996. №. 1(5). S. 123—164; Zatarg o język kazań w Żodziszkach, cd. (dokumenty wybrała i opracowała M. Moroz) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 10. S. 124—165. — *А.П.*

У красавіку 1925 г. названая камісія прыбыла ў Жодзішкі для правядзеньня плебісцыту. Гэтую падзею апісаў Б. Туронак у артыкуле “Праўда аб Жодзішках” (“Тамашні”), як наступнае:

*Праўда аб Жодзішках*[25]

Як чуваць, нашае жодзіснае галасаваньне, адбытае 25.IV. нарабіла многа шуму. Аб ім гаворыцца ня толькі ў Польшчы, але і заграніцай. Усе інтэрэсуюцца прабуджаючымся да новага жыцьця беларускім народам і прыглядаюцца з вялікай увагай да ўсіх рухаў, якія сьведчаць аб новым жыцьці нашага народу.

Але усе весткі, якія мне давялося чытаць у газэтах, вельмі былі раптоўны, не спраўджаны — і дзеля гэтага мне прыходзіцца узяць за пяро, каб высьвятліць праўду і паказаць на факты, каторыя могуць памагчы ў досьледах гэтай праўды.

Вось–жа, як толькі былі ўведзены ў Жодзішны касьцёл беларускія навукі адразу яны здабылі сабе вялікую папулярнасьць. Людзі ня толькі з сваей парахвіі, але і чужых (часам нават вельмі далёкіх) прыходзілі, каб паслухаць навуку ў роднай мове, або пачуць беларускую рэлігійную песьню.

Навука ў роднай мове і песьні рабілі на нікаторых вялікае ўражаньне — і яны вярнуўшыся да хаты расказвалі аб усім што відзелі і чулі. Пры гэтым казалі: “мы думалі, што з нашай мовай сапраўды нікуды ня можна паказацца, а тым часам як запяюць песьню ў роднай мове, то так бярэ за сэрца, што аж плакаць хочацца”. І сапраўды, нікаторыя плакалі, асабліва пачуўшы песьню “Матачка Божая”, або “О мой Божа, веру Табе”. Гэтае ўсё рабіла вялікі розгалас па ўсей аколіцы — ўсе сьпяшылі ў Жодзішкі, каб самым пераканацца аб праўдзівасьці казанага і чутага. Дык народу–ж, народу набралася ў касьцёл — проста як на фэст, або якую вялікую ўрачыстасьць!

З другога боку польскай навукі ніхто не хацеў слухаць: ні беларусы, бо яна ім абрыдла, ні “палякі”, бо яны разумеючы па беларуску (а праўду кажучы і самі беларусы, толькі прыкідаюцца палякамі) ужо не хацелі слухаць навукі польскае. Затым і аставалася на навуцы польскай асоб ня больш як 20—30. А праўдзівыя палякі, як паны, паліцыя і вучыцялі з рэлігіяй ніколі ня мелі да чыненьня, то іх не было ні на беларускай, ні на польскай навуцы.

Гэтак не магло доўга цягнуцца, бо трудна ж было гаварыць да пустых сьцен (на першы дзень Вялікадня гэтага году асталася на польскую навуку толькі адна кабета), дык была вызначана Віленскім Біскупам адумысловая камісія, каторай было даручана дасьледзіць на месцы і аб усім данясьці Біскупу. (Рабіць галасаваньне ці плебісцыт ей даручана не было). Камісія была моцна аднастаронная, бо складалася з адных палякоў і нават замаскаваных эндэкаў, як напр. Сьвірскі дзекан, або пробашч з Данюшава. Але і гэтая камісія перад многімі дзівілася, што справа *беларуская*, а ў камісіі няма ніводнага беларуса, што саўсім пярэчыць галоўным падставам такту і справядлівасьці. Ды нічога не парадзіш — калі на гэтую аднастароннасьць была зьвернута ўвага Віленскага Біскупа, то прадстаўнікі беларусаў атрымалі адказ, што ўжо перарабіць ня можна...

Вось–жа гэтая камісія прыехаўшы ў Жодзішкі ўмела ўзялася за работу. Яна была пэўная, што пратэсту ўнутры яе ня будзе — пісаць можна, што хочаць і рабіць так–сама можна што хочаць. Дык назначыла галасаваньне, на цьвінтары перад касьцёлам. Было абвешчана з амбоны, каб людзі ўжо выходзячы з касьцёла дзяліліся так: беларусы каб ішлі ўлева ад касьцельных дзьвярэй, а палякі — управа. Людзі гэтак і зрабілі — і хоць для палякоў была дужа лепшая старана (правая), аднак туды пайшла саўсім невялічкая група людзей. Здаецца галасаваньне ўжо адбылося — і камісіі толькі трэба было выйсьці перад касьцёл і спытацца ў левай стараны, ці яна сапраўды хоча беларускай навукі, а ў правай — ці яна хоча польскай — і справа была–б скончана. Аднак–жа камісія паступіла інакш. Яна на чале з дэканам урэзалася ў самую беларускую гушчу і ізноў прыказала дзяліцца, але ужо саўсім наадварот: беларусам падацца ўправа, а палякам ўлева.

Усякі мог дапусьціць, што пры гэткім новым пераходжаньні магло дайсьці да крыку, пагроз, а мо

[25] Артыкул друкаваўся лацінкаю. У гэтым тэксьце захоўваюцца ўсе асаблівасьці мовы, артаграфіі і пунктуацыі арыгіналу.

і чаго большага, бо як ужо пісалася ў "Крыніцы", паны, вучыцялі і шляхта з усей вакругі прыехалі ўваружаныя рэвальвэрамі, выймалі іх і гразілі беларусам. Аднак камісія загадала ізноў пераходзіць...

Калі пры такіх абставінах сапраўды не дайшло да "масакраваньня" і біцьця палякоў, дык у гэтым вялікая заслуга тутэйшага пробашча, каторы ўзьдзяржаў беларусаў ад усялякіх гвалтаў. Бо ўжо пачалі крычаць: "адабраць ад іх рэвальвэры!"... а калі б пачалі адбіраць, то мусіць не памагла б ні паліцыя ні прынесены ею кулямёт... Рэвальвэры і кулямёт падражнілі беларусаў да астатку... З мужчын ніхто не кранууся ні перад кулямётам, ні перад рэвальвэрамі — усе чулі сілу народнай масы... а перад ею ніштo не ўстаіць.

А што–ж камісія? Камісія заварыўшы кашу пайшла сабе — і напісала, што было беларусаў 60%, а палякоў 40%. На пратэсты дзекан бясстыдна заяўляў, што нічога яму не перашкаджае напісаць і 100% палякоў! Дык вот якая камісія!..

Але ня ў гэтым уся справа. Галаўнейшае тое, якія скуткі прынясло гэтае галасаваньне? А скуткі для беларусаў вялікія. Беларускі народ мажа першы раз у гісторыі апошніх дзён выявіў сваю волю ў касьцельным жыцьці — і выявіў яе так моцна, што водгукі ягонага голасу не даюць спаць публіцыстам з "Дзен. Віль" і ім падобным, (а ўжо гэтая галасьба эндэцкіх газэт мажа найлепш сьведчыць аб тым, якая сапраўды была беларуская большасьць пры жодзісным галасаваньні — што там было беларусаў куды болей за 60%!). Пры гэтым народ зразумеў, што мова ў касьцеле залежыць ад яго волі, а не ад волі польскага духавенства — бо аб гэтай волі прыехала ў яго пытацца аж цэлая камісія... Ізноў–жа народ ясна відзеў, хто хоча і хто стаіць нават з аружжам у руках за мову польскую: паны, падпанкі, шляхта, чыноўнікі, вучыцялі, панскія парабкі і панскія падлізы. А працоўны народ увесь як адзін чалавек стаў за сваю родную, бо зразумеў, што ў гэтым яго лепшая доля.

А яшчэ адзін важны вынік з гэтага галасаваньня — разышлася вестка па ўсей Беларусі, а нават заграніцай, як наш народ змагаецца пад кулямётам за свае правы. Гэтая вестка будзіць усіх сыноў Беларускага народу да змаганьня за лепшае жыцьцё, каб змагаючыся за родную *мову* здабыць родную *зямлю і волю*.

Затым–то і змаганьне пашыраецца з вялікай шпаркасьцю на ўвесь край. Людзі і па другіх парахвіях дзеляцца і арганізуюцца: з аднэй стараны польскія паны і шляхта, а з другой беларускія мужыкі. Хто возьме верх — сказаць лёгка: яго возьме беларуская сярмяжная маса і паставіць свае правы ўсюды: у касьцёле, у гміне, у школе і ўва ўсім краі.

*Тамашні*

Krynica. № 22, 24.5.1925 г., 2—4 стар.

Артыкул "Праўда аб Жодзішках" спаткаўся з зацікаўленьнем ня толькі беларускай і польскай прэсы, але і віленскай паліцыі, якая ў маі 1925 г. правяла вобыск на кватэры Б. Туронка[26]. За гэты артыкул, па загаду камісара ўраду на места Вільню, быў канфіскаваны адпаведны нумар "Крыніцы"[27]. Празь некалькі дзён у справе гэтай канфіскаты Беларускі пасольскі клюб злажыў міністру ўнутраных спраў інтэрпэляцыю ў сойм, да якой быў далучаны цытаваны артыкул[28]. У чэрвені гэтая справа разглядалася Віленскім акруговым судом, які канфіскату зацьвердзіў. Неўзабаве справай зацікавілася пракуратура. Вось што пісала аб гэтым "Biełaruskaja Krynica" 20 верасьня 1925 году:

[26] Беларуская Доля. 1925. № 29.

[27] Крыніца. 25.5.1925.

[28] Далучэньне сканфіскаванага артыкула да тэксту пасольскае інтэрпэляцыі давала магчымасьць абысьці цэнзурныя перашкоды, бо, згодна з польскім заканадаўствам, законна пададзеныя інтэрпэляцыі не маглі канфіскоўвацца ні пры якіх абставінах. Пасьля падачы інтэрпэляцыі тэкст "крамольнага" артыкула зноў зьяўляўся на старонках беларускага друку, маючы ўжо парлямэнцкую недатыкальнасьць (Крыніца. 31.05.1925). — *А.П.*

Доля "Крыніцы" і яе рэдактара. 17 жніўня па загаду сьледаваценя III вокругу места Вільні быў арыштаваны рэдактар "Крыніцы" Б. Туронак і пасаджаны ў вастрог на Лукішках. Аб арышце беларускага рэдактара польскія ўлады нават і не пафатыгаваліся паведаміць ані рэдакцыю, ані каго–колечы зь беларусаў. Праз два тыдні аб Б. Туронку нічога не было ведама. Толькі пасьля двух тыдняў супрацоўнікі рэдакцыі "Крыніца" даведаліся, дзе знаходзіцца рэдактар.
Пры арышце Б. Туронку было заяўлена, што ён можа застацца на свабодзе, калі заплаце 500 зл. залогу. Грошай не было, дык прышлося сесьці ў турму.
З турмы рэдактар "Крыніцы" напісаў да пракурора просьбу аб зьмяншэньні яму залогу. Калі пасол кс. А. Станкевіч, жадаючы дапамагчы рэд. Туронку, зьявіўся ў суд і прасіў яго таксама аб зьмяншэньні залогу, дык суд залог гэты замест зьменшыць павялічыў да... тысячы злотых.
Жаданыя грошы, дзякуючы добрым людзям, знайшліся і былі ўнесены, а Б. Туронак застаўся да суду на свабодзе. (Адначасова ён быў аддадзены пад нагляд паліцыі, аб чым паведамляла "Chryścjanskaja Dumka". 10.10.1938. — *Ю.Т.*) За ім лічыцца да дзесяцёх спраў за розныя стацьці ў розных нумарох "Крыніцы" за два апошнія гады.
Але не канец на гэтым. Камісар ураду на места Вільню паведаміў рэдакцыю "Крыніцы", што па загаду пракурора "Крыніца" да разгляду справы спыняецца. Такім чынам, як бачым, найстарэйшая ў Вільні беларуская газэта, пратрываўшы 9 гадоў (два ў Менску і Петраградзе, а 7 у Вільні), скончыла сваё мучаніцкае жыцьцё сьмерцяй ненатуральнай.
Мусім тут адзначыць, што "Крыніца" стойка трывала ў барацьбе за вызваленьне беларускага сярмяжніка і чэсна спаўняла перад ім свой доўг.

Празь некалькі месяцаў справу Б. Туронка разглядаў Віленскі акруговы суд. Інфармацыю аб гэтым працэсе зьмясьцілі некалькі беларускіх газэтаў, між іншага, "Biełaruskaja Krynica" (1925. 6 сьнежня), "Беларуская Ніва" (1925. 2 сьнежня) і "Грамадзкі Голас" (1925. 10 сьнежня). Ніжэй цытуем справаздачу "Biełaruskaj Krynicy":

Суд над рэд. Туронкам. 30 лістапада Віленскі акружны суд разглядаў 7 спраў рэд. "Крыніцы" Б. Туронка, якога абвінавачвалі паводле арт. 129, 263 і 298 к. к. за розныя стацьці, зьмешчаныя ў "Крыніцы". Бараніў рэдактара адв. Б. Родзевіч. (Памылка — у актах справы падаецца Вацлаў Родзевіч. — *Ю.Т.*)
Сьведкі беларусы пасол Ярэміч, дыр. Астроўскі і іншыя дамагаліся, каб суд прывёў іх да прысягі ў роднай беларускай мове. Суд, парадзіўшыся ў працягу 15 мінут, дамаганьне сьведкаў адкінуў. Тады сьведкі цалком адмовіліся ад прысягі. Суд на гэта згадзіўся. Тут трэба адзначыць, што разам зь беларускімі інтэлігентамі адмовіліся ад прысягі ў польскай мове таксама і сьведкі беларускія сяляне.
Суд прысудзіў рэд. Б. Туронка на два месяцы турмы, а "Крыніцу" зачыніў назаўсёды. Рэдактар прысудам нездаволены і падае апэляцыю.

Здаецца, што "Biełaruskaja Krynica" і іншыя газэты дапусьцілі акрамя імя адваката яшчэ адну недакладнасьць. Як паказваюць архіўныя акты справы Б. Туронка, ён быў прысуджаны да трохмесячнага турэмнага зьняволеньня з устрыманьнем пакараньня на працяг пяці гадоў. Аб гэтым пазьней пісалі "Сялянская Ніва" (1927. 18 чэрвеня) і А. Станкевіч у кніжцы "Беларускі хрысьціянскі рух" (С. 216). Цікава заўважыць, што ў час судовай расправы Б. Туронак ня выявіў аўтара артыкула "Праўда аб Жодзішках", якім быў ён сам. Гэтым, магчыма, унікнуў большага пакараньня.

Эпілёг справы рэдактара "Крыніцы" адбыўся 26 студзеня 1928 г. у Віленскім апэляцыйным судзе, які зацьвердзіў ранейшы трохмесячны прысуд, вынесены Акруговым судом, з устрыманьнем яго выкананьня на працяг пяці гадоў[29]. Такім чынам, далейшая прэсавая дзейнасьць пагражала б Б. Туронку аўтаматычна трохмесячнай адседкай на Лукішках.

[29] Biełaruskaja Krynica. 1928. 6 lutaha.

## Паміж Станкевічам і Рагулем

Аднак судовы вырак не пазбавіў Браніслава Туронка ахвоты да далейшай грамадзкай працы. Не зьмянілася і асноўная арыентацыя яго дзейнасьці, якая па–ранейшаму апіралася на супрацоўніцтва з БХД і ў прыватнасьці з ксяндзом Адамам Станкевічам. Аб гэтым, як цеснымі былі іх сувязі, сьведчыць, між іншым, факт, што ў 1926—1927 гадох ён наймаў пакой у доме пры вуліцы Полацкай, 4, у якім зьмяшчаўся галоўны “штаб” беларускае хадэцыі.

Гэта быў бурны і вельмі цікавы пэрыяд у палітычным жыцьці Заходняе Беларусі, перш за ўсё з увагі на ролю, якую ў ім адыграла Беларуская сялянска–работніцкая грамада. Як вядома, яна стваралася пад непасрэдным кіраўніцтвам КПЗБ, якая вызначала мэты і заданьні Грамады, прымала актыўны ўдзел у яе рабоце[30]. Дадайма, што гэтая работа фінансавалася кампартыяй праз кіраваны Радаславам Астроўскім Беларускі кааператыўны банк.

На фоне хутка ўзрастаючых у сялянскіх масах уплываў Грамады 10 лістапада 1925 г. з ініцыятывы паслоў Фабіяна Ярэміча і Васіля Рагулі паўстала новая партыя — Беларускі сялянскі саюз. Як сьведчаць ня толькі савецкія, але і даваенныя польскія крыніцы (між іншым, “Krótki zarys...”, s. 37), Беларускі сялянскі саюз быў створаны ў процівагу Грамадзе. Падобна як усе беларускія партыі і арганізацыі, Сялянскі саюз дамагаўся надзелу зямлі бяз выкупу, высоўваў і іншыя радыкальныя патрабаваньні. Апрача таго, стаяў ён на грунце незалежнай Беларусі, чым прынцыпова розьніўся ад Грамады. Прэсавым органам Сялянскага саюзу была газэта “Сялянская Ніва”.

Варта заўважыць, што праграма БСС была амаль аднолькавай з праграмай БХД. Па сутнасьці адзіным адрозьненьнем было тое, што Сялянскі саюз менш цікавіўся пытаньнямі рэлігіі, высоўваючы на першы плян справы нацыянальныя. Як паведамляў “Круткі зарыс...” (с. 37), у канцы студзеня 1926 г. адбыліся перамовы паміж Рагулем і Ярэмічам з аднаго боку і ксяндзом А. Станкевічам з другога, рэзультатам якіх было пагадненьне аб супрацоўніцтве і ўзаемнай падтрымцы БХД і БСС.

24 сакавіка 1926 г. у Вільні ў хадэцкім “штабе” на Полацкай, 4, адбыўся першы зьезд Сялянскага саюзу з удзелам ксяндза А. Станкевіча, А. Стаповіча, Б. Туронка і іншых. Зьезд выбраў Цэнтральны камітэт БСС, у складзе якога былі: В. Рагуля (старшыня), Ярэміч і Куніцкі (намесьнікі старшыні), Більдзюкевіч (сакратар), Туронак (намесьнік сакратара). Адначасова Туронак як прадстаўнік Сялянскага саюзу ўвайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. Быў яго сябрам да 18 верасьня 1926 г., г.зн. да выступленьня БХД і БСС з гэтага камітэту.

Як паведамляла “Сялянская Ніва”[31], у выбраны на чарговым зьезьдзе БСС яго Цэнтральны Камітэт увайшлі: Рагуля (старшыня), Ярэміч і Юхнавец (нам. старшыні), Туронак (сакратар), Куніцкі, Більдзюкевіч і Сьвістун. Такім чынам, Туронак быў сябрам кіраўніцтва Сялянскага Саюзу прынамсі да лета 1928г., г.зн. практычна да канца існаваньня гэтай партыі.

Узьнікае пытаньне, якое было тады стаўленьне Браніслава Туронка да Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, тым больш, што, як паведамляла “Сялянская Ніва”[32], у той самы час акрамя ўдзелу ў ЦК БСС ён быў яшчэ і супрацоўнікам “Biełaruskaj Krynicy” — органа БХД? Здаецца, што адказ на гэтае пытаньне выцякае з пагадненьня аб супрацоўніцтве паміж БДХ і БСС, якое ў студзені 1926 г. заключылі лідэры гэтых партыяў. Як паказваюць матэрыялы зьездаў БХД, Туронак ніколі не ўваходзіў у склад яе Цэнтральнага камітэту, аднак у хадэкаў лічыўся “сваім чалавекам”. Можна думаць, што, займаю-

[30] Революционный путь компартии Западной Белоруссии. Минск, 1966. С. 132.
[31] 1927. 30 ліпеня.
[32] 1926. 11 ліпеня.

чы пост сакратара ЦК БСС, ён ажыцьцяўляў, між іншым, пастаянную сувязь паміж гэтым партыямі.

Рэзультатам супрацоўніцтва БХД і БСС быў, між іншым, Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. БІГіК быў арганізаваны ў Варшаве 26 мая 1926 г., а празь месяц — 26 чэрвеня — адкрыўся яго Віленскі аддзел. На арганізацыйным сходзе аддзелу, які адбыўся на Полацкай, 4, выступіў ад імя цэнтральнай управы БІГіК кс. Адам Станкевіч, які распавёў пра мэты і заданьні новай арганізацыі. Была выбраная ўправа аддзелу, у склад якой увайшлі кс. А. Станкевіч, В. Багдановіч, адвакат Казлоўскі, Б. Туронак (сакратар) і Ярэміч (скарбнік).

На чарговым сходзе Віленскага аддзелу, які адбыўся 6 лютага 1927 г., Б. Туронак быў выбраны старшынём яго ўправы. У яе склад увайшлі: Ярэміч (намесьнік старшыні), кс. А. Станкевіч (скарбнік), а таксама Каруза і Дубейкаўскі (сябры).

Віленскім аддзелам БІГіК Б. Туронак кіраваў да вясны 1928 г., г.зн. да свайго выезду зь Вільні. Таксама ўзначальваў ён, разам зь Янам Васілеўскім і Адамам Більдзюкевічам, Гандлёва–прамысловы банк, арганізаваны Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры ў красавіку 1928 г. у Вільні[33].

Як пісаў М. Ачарот у беластоцкай “Ніве”[34]:

> Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры быў заснаваны з мэтай падтрыманьня і разьвіцьця народнай прамысловасьці, рамяства, тэхнікі, народнага мастацтва, духовай культуры і асьветы, і краёвага земляробства. БІГіК закладаў і вёў прыкладныя гаспадаркі і пасекі, майстэрні земляробчых і пасечных вырабаў, праводзіў мэліярацыю, падтрымоўваў вырошчваньне садовых дрэваў, арганізаваў экскурсіі з мэтай пазнаньня земляробства, пчалаводзтва, агародніцтва, малочніцтва, народнай прамысловасьці, тэхнікі, высылаў інструктараў, даваў парады і прафэсійную дапамогу як з навуковага, так і матэрыяльнага боку, склікаў зьезды сяброў, арганізаваў выстаўкі і конкурсы, праводзіў лекцыі, гутаркі, спрэчкі.
> Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры арганізаваліся тэатральныя пастаноўкі, канцэрты, выдаваліся і распаўсюджваліся кніжкі, брашуры, часопісы і ўтрымліваліся чытальні, бібліятэкі, кнігарні, музэі і народныя дамы.

Усе гэтыя мерапрыемствы былі — паводле У. Палуяна — накіраваныя на тое, “каб вырваць працоўных з–пад уплыву КПЗБ і прагрэсіўных нацыянальна–вызваленчых арганізацыяў Заходняй Беларусі”[35]. Словам — хто не з намі, той супраць нас. Падобных прыяцеляў БІГіК меў таксама ў лягеры “Цэнтрасаюзу” (гл. стар. 815. — *Рэд.*).

У канцы 1927 г. беларускія палітычныя партыі і арганізацыі рыхтаваліся да выбараў у польскі сойм, якія мелі адбыцца на пачатку сакавіка 1928 г. Гэтая падрыхтоўка адбывалася ўва ўмовах вострага ўзаемнага змаганьня, якое значна аслабляла і так невялікія іх сілы і ўплывы ў масах. БХД, БСС і іншыя групоўкі стварылі т.зв. Беларускі аб’яднаны выбарчы камітэт[36], які ішоў на выбары ў рамках Блёку нацыянальных меншасьцяў (сьпісак № 18).

На пасяджэньні гэтага камітэту, якое адбылося 28 сьнежня 1928 г., Б. Туронак як сакратар ЦК БСС і старшыня Віленскага аддзелу БІГіК быў вылучаны кандыдатам Блёку ад Беластоцкай выбарчай акругі (Беластоцкі, Сакольскі і Ваўкавыскі паветы). Першае месца сярод кандыдатаў гэтае акругі ў сойм займаў варшаўскі жыд, купец Шыя

[33] Гл.: Sprawy narodowościowe. 1928. № 2. С. 224.

[34] 1956. 12 жніўня.

[35] Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 2. С. 240

[36] Поўная назва гэтага камітэту — Беларускі цэнтральны аб’яднаны выбарчы камітэт (БЦАВК). Акрамя БХД і БСС, да яго далучыліся Беларускае праваслаўнае дэмакратычнае аб’яднаньне на чале зь Вячаславам Багдановічам і адзін з двух існых у той час віленскіх Беларускіх нацыянальных камітэтаў. — *А.П.*

Гесэль Фарбштэйн[37], другое — Туронак і астатнія: Грыневіч і Наруш[38].

У часе выбараў Блёк нацыянальных меншасьцяў атрымаў у Беластоцкай акрузе толькі адзін пасольскі мандат. Згодна з выбарчым рэглямэнтам, ён выпаў на долю Фарбштэйна.

Акрамя грамадзка–палітычнай дзейнасьці, у 1926—1928 гадох Б. Туронак займаўся таксама папулярызацыяй аховы здароўя. У Вільні і ў сельскіх гуртках БІГіК выступаў з адпаведнымі лекцыямі, крыху пісаў. Адзін яго артыкул “Аб сухотах” быў зьмешчаны ў выдадзеным Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры зборніку “З роднае нівы” (Вільня, 1928. С. 49—55). Крыху большая праца — “Гігіена ўзгадаваньня дзіцяці” — друкавалася вясной 1928 г. у “Biełaruskaj Krynicy” (№ 23—31).

У маі 1928 г. выпусьціла яе асобнай брашурай выдавецтва “Biełaruskaja Krynica”. Кніжачка налічвала 40 старонак невялікага фармату ды была надрукавана ў друкарні імя Ф. Скарыны (Я. Найдзюк) накладам у 1000 асобнікаў. Яе абавязковы асобнік, які быў перасланы аўтарам у Камісарыят ураду на места Вільню, пасьля многіх гадоў трапіў у Нацыянальную бібліятэку ў Варшаве, у якой захоўваецца і цяпер.

У гэты час зьмянілася асабістае жыцьцё Браніслава Туронка. У 1926/27 г. пазнаёміўся з маладзейшай на 9 гадоў Марыяй Рэшаць, сястрой тагачаснага прафэсара Віленскай духоўнай сэмінарыі кс. Язэпа Рэшаця. Як успамінала мама, у Вільні адбываліся тады беларускія набажэнствы ў касьцёле сьв. Мікалая[39], дзе паведамлялі аб розных акадэміях, імпрэзах. На адной такой сустрэчы (паводле Язэпа Найдзюка — на Полацкай, 4) пазнала Браніслава.

Шлюб адбыўся ў Вільні 31 студзеня 1928 г. у касьцёле сьв. Якуба каля Лукіскай плошчы. У студзені 1928 г. Браніслаў жыў на вуліцы Якуба Ясінскага, 1 (цяпер Пятро Цьвіркос), г зн. у раёне парафіі сьв. Якуба.

Вясельле спраўлялі ў новай кватэры мамы на Ліповай, 13 (Зьвярынец). Прысутнічалі: з бацькавай сям’і — сястра Антаніна і браты Ян і Віцька, зь сям’і мамы — яе маці Ганна Рэшаць, брат кс. Язэп Рэшаць і сястра Лёня з мужам. Акрамя іх былі на вясельлі Ашака і Ян Стэповіч. Не былі запрошаны бацькавы сябры з БХД, БСС, БІГіК і іншыя. Чаму?

Жаніцьба Браніслава Туронка была пачаткам карэнных пераменаў ягонага жыцьця. У прыватнасьці, давялося адмовіцца ад ранейшай актыўнай працы на беларускай ніве. Вясной 1928 г. пакінуў ён Вільню і пасяліўся ў жыдоўска–летувіска–польскім мястэчку Дукшты каля Турмонтаў. Гэтая пастанова, улічваючы ранейшую грамадзкую заангажаванасьць Б. Туронка, выклікае прынамсі зьдзіўленьне. Чаму ён пакінуў Вільню і чаму замяніў яе на небеларускія Дукшты? На ваколіцу, у якой нават пры найбольшым жаданьні няшмат ужо мог зрабіць для беларускай справы.

Ці быў расчараваны вынікамі сваёй грамадзкай дзейнасьці? Можа, і быў, але, напэўна, ня больш, чым іншыя дзяячы, якія, нягледзячы на цяжкасьці, не пакідалі баявой пазыцыі. Можа, пацягнула пэрспэктыва большых заробаткаў на правінцыі ці паўплывалі нейкія сямейныя акалічнасьці? Цяжка сказаць што–небудзь пэўнае... Урэшце, у жыцьці лічацца толькі факты, а не пажаданьні ці нават пастановы.

---

[37] Фарбштэйн Шыя Гесэль (Гірш) (1870—1948) — габрэйскі дзяяч у міжваеннай Польшчы, адзін зь лідэраў сіяніцкага руху, у 1918 — 1931 г. — старшыня сіяніцкай партыі “Мізрахі” ў Польшчы. У 1922—1930 г. — пасол польскага сойму. З 1931 г. — у Палестыне, у 1938—1945 г. старшыня гарадзкой рады Ерусаліму. — *А.П.*

[38] Гл.: Сялянская Ніва. 1928. 1 студзеня; Biełaruskaja Krynica. 1928. 9 і 12 лютага.

[39] Беларускія каталікі ня мелі ўласнага касьцёла ў міжваеннай Вільні. Касьцёл сьв. Мікалая належаў віленскім літоўцам і выкарыстоўваўся беларусамі па дамоўленасьці зь імі. Звычайна беларускую імшу ў гэтым касьцёле служыў кс. Адам Станкевіч. — *А.П.*

## 5. На пэрыфэрыі руху

У Дукштах бацька пачаткова наняў кватэру ў доме Іцка Арона, якраз насупраць пастарунку паліцыі. Празь некалькі месяцаў, летам 1928 г., прыехала сюды і маці. У 1931 ці 1932 г. сям’я перасялілася ў дом пры вуліцы Бербецкага, № 51 (у 1939—1945 г. — вуліца Лайсьвес № 61), уласьнікам якога быў доктар вэтэрынарыі Часлаў Доўбар. У 1935 г. бацька купіў гэты дом прыблізна за 4000 злотых. Стаяў ён на арандаваным пляцы, які належаў да сялян вёсак Гіруцішкі і Канюкі.

Дом быў драўляны, шасьціпакаёвы, з вэрандай з фронту і зь сенцамі ад панадворку. Два пакоі займалі кабінэт і пачакальня для пацыентаў, а ў астатніх чатырох пакоях і кухні кватаравала сям’я. Акрамя прыватнай практыкі, бацька працаваў у дукштанскай “Касе хворых” і разы два ў тыдзень езьдзіў цягнікам у Турмонты, дзе абслугоўваў тамашні мэдпункт.

На панадворку стаяў хлеў, у якім трымалі карову і адну—дзьве сьвіньні, была таксама вялікая піўніца. Пазьней, у палове 30–х гадоў, бацька пабудаваў яшчэ лазьню з пустакоў. На даволі вялікім агародзе быў пасаджаны сад, была і сажалка з карасямі (і трытонамі).

Такім чынам, былі створаны адпаведныя матэрыяльныя ўмовы для сям’і, якой Бог паслаў трох сыноў. Нарадзіліся:

Юрка — 27.04.1929;
Андрэй — 24.02.1931;
Міхась — 20.03.1935.

Усе сыны прыйшлі на сьвет у віленскай клініцы, аднак былі ахрышчаныя ў Дукштах, у сувязі з чым гэтае мястэчка фармальна лічыцца месцам іх нараджэньня.

Сямейныя кантакты не былі асабліва частымі, праўдападобна, з той прычыны, што і бацькава Дзісеншчына і матчына Беласточчына знаходзіліся даволі далёка. Наколькі памятаецца, езьдзілі мы адзін год, летам, да адных дзядзькоў і цётак, а другі год — да другіх. Варта заўважыць, што сувязі з бацькавай сям’ёй мелі асаблівы падтэкст. Усе, акрамя Фартуні, яго браты і сёстры лічыліся беднымі, а бацька, які лічыўся найбагацейшым, дапамагаў ім хіба ня толькі ў рамках кампэнсацыі за дапамогу, атрыманую ў студэнцкія гады. Ішлі грошы асабліва на падтрыманьне гаспадаркі Ўладзіслава (“меў многа дзяцей”) і Яна (між іншым, на куплю зямлі ў Ідольце), а таксама на адукацыю Віцькі. Здаецца, што ў гэтай справе здаволеных было мала.

Дукштанскія будні значна адрозьніваліся ад віленскіх, поўных напружаньня і самаадданай грамадзкай працы, карысьць якой не вымяралася залатоўкамі. Праўда, і тут бацька шмат працаваў, часта і па начах, калі даводзілася езьдзіць да хворых у акалічныя вёскі. Праўда таксама, што гэтая ягоная праца мела вялікі гуманітарны сэнс. Усё ж біяграфіі лекараў, як правіла, вымяраюцца іншымі крытэрамі, чым жыцьцяпісы грамадзкіх дзеячоў.

Стыль дукштанскага жыцьця быў тыпова правінцыйным. Памятаюцца частыя “гарбаткі” ці ўзаемныя візыты з больш канкрэтным, чым чай, рэпэртуарам. Мясцовы войт Шэйка, Лянцэвічы, Оркіш і Навагонская з Антанова (з брычкай), можа, яшчэ хтось — такая была найчасьцей мясцовая кампанія. Здаецца, што ўсе гэтыя сустрэчы адбываліся больш для “забіцьця часу”, чым для душы, а нават для інтарэсу.

Нельга сказаць, што пасьля выезду зь Вільні цалкам спыніўся ўдзел бацькі ў беларускім руху. У палове ліпеня 1928 г. ён удзельнічаў разам з мамай ува ўрачыстай сустрэчы кс. В. Гадлеўскага пасьля ягонага звальненьня з Макатоўскай турмы. 3 лютага 1929 г. бацька быў выбраны ў склад Цэнтральнай управы Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры ў якасьці намесьніка яе сябра[40]. Потым, на працягу двух наступных гадоў (1930/31 і 1931/32), не спатыкаем ягонага прозьвішча ўва ўладах БІГіК.

[40] Biełaruskaja Krynica. 8.2.1929.

Як паведамляла “Biełaruskaja Krynica”[41], у канцы лютага 1932 г. адбыўся сход Віленскага аддзелу БІГіК, які выбраў Б. Туронка дэлегатам аддзелу ў Раду БІГіК. На гадавым сходзе Рады, які адбыўся 24.04.1932 г., ён быў выбраны сябрам Цэнтральнай управы БІГіК[42]. На гэты самы пост выбіраўся ён яшчэ на 1933/34 год[43]. У гэтыя гады старшынём Цэнтральнай управы БІГіК быў кс. В. Гадлеўскі, ягонымі намесьнікамі — А. Клімовіч і Ф. Ярэміч, сакратаром — М. Пецюкевіч, скарбнікам — айцец А. Коўш і сябрамі, акрамя Б. Туронка, — Я. Пазьняк і Я. Малецкі. Ад вясны 1934 г. бацька больш ужо не выбіраўся ў Цэнтральную ўправу БІГіК. Дарэчы, 4 сьнежня 1936 г. гэтая арганізацыя была зачыненая польскімі ўладамі.

Можна думаць, што гэтыя “выбары” больш за ўсё адлюстроўвалі імкненьне Гадлеўскага не адпускаць бацьку з круга дзейнасьці БІГіК, мабілізаваць яго да далейшай працы. Аднак гэтыя спробы выразна рваліся, а яго ўдзел у БІГіК у пэрыяд 1929—1934 г. быў хіба толькі намінальным. На перашкодзе стаяла пастаяннае пражываньне па–за віленскім асяродзьдзем.

У Дукштах, як падавалася ў пасьмертных біяграфіях, ён мог ужо толькі “трымаць кантакт”, мог здалёк цікавіцца рухам. У 30–я гады бацька выпісваў “Biełaruskuju Krynicu”, “Шлях Моладзі”, “Самапомач”, “Калосьсе”, “Chryścjanskuju Dumku”, гадавікі якіх захоўваліся ў скрынях на страсе і да якіх я неаднаразова заглядаў. Тамсама былі калекцыі кніжак пецярбурскіх і віленскіх беларускіх выдавецтваў. Адначасова падтрымоўваў грашыма, між іншым, “Шлях Моладзі” (гл. яго 13 нумар за 1933 г.), непэрыядычныя выданьні (між іншым, зборнікі вершаў М. Машары[44]), дасылаў складчыны на іншыя мэты (між іншым, на пабудову помніка Ядвігіну Ш[45]). Ня раз заглядалі да бацькі ў Дукшты кс. А. Цікота, Я. Малецкі, П. Сергіевіч і іншыя беларусы, якія ехалі зь Вільні на Браслаўшчыну ці наадварот.

Вялікую ўвагу бацька зьвяртаў на ўзгадаваньне дзяцей у беларускім духу, што практычна ажыцьцяўляла мама. Бацькі гаварылі па–беларуску між сабою і зь дзецьмі, а таксама патрабавалі, каб і дзеці так між сабою гаварылі. Аднак за парогам была вуліца, дзе панавала афіцыйная польшчына. Што тут гаварыць, імпанавала нам малым польская мова (школа, касьцёл, установы, сябры), у выніку чаго пачынаў часам і я перашэптвацца з Андрэем па–польску. Калісь пачуў гэта бацька, і старэйшы сын атрымаў адпаведнае павучэньне папругай, пасьля чаго такія экспэрымэнты больш не паўтараліся.

У гэтых адносінах істотную ролю грала агульная хатняя атмасфэра. На сьценах віселі партрэцікі Багушэвіча з вусамі, Купалы і Сваяка, якія я вучыўся пазнаваць будучы яшчэ вельмі малым. Пад вокам мамы вучыўся чытаць і пісаць па–беларуску зь “Першых Зярнятак” Паўловіча. Памятаюцца першыя вершыкі “Я шавец маладзец”, “Жылі ў бацькі тры сыны”, а таксама песьні, якія бацька сьпяваў і граў на гітары, — “Камар лазьню тапіў”, “Чаму ж мне ня пець”, “Конь бяжыць, зямля дрыжыць”. Найхутчэй дзеля гэтых узгадаваўчых мэтаў была запрошана з Браслаўшчыны служанка Яня, якая працавала ў нас некалькі гадоў.

На нацыянальным фоне ўзьнік канфлікт паміж бацькам і яго наймаладзейшым братам Віцькам, які, закончыўшы Друйскую гімназію (каля 1935 г.), адрокся сваёй беларускай нацыянальнасьці і паступіў у афіцэрскую школу. Тады спыніліся паміж імі адносіны і да сьмерці бацькі Віцька ў нас не бываў.

А цяпер некалькі бытовых эпізодаў, якія засталіся ў маёй памяці:

---

[41] 1932. 6 сакавіка.

[42] Biełaruskaja Krynica. 1.5.1932.

[43] Biełaruskaja Krynica. 14.5.1933.

[44] Машара Міхась (1902—1976) — заходнебеларускі паэт, у міжваенны пэрыяд выдаў некалькі зборнікаў вершаў: “Малюнкі” (1928), “Напрадвесьні” (1935), “З–пад стрэх саламяных” (1937). — *А.П.*

[45] Шлях Моладзі. 1937. № 5.

— Бацька шмат курыў. Купляў розныя гатункі тытуню, сам рабіў мяшанкі і набіваў туткі.
— Любіў зброю. Хацеў мець пісталет, але не атрымаў дазволу ад старасты. Вядома, прычына была ў нацыянальнасьці. Купляў тады "страшакі", якімі забаўляўся і я. Майстраваў нам пісталеты зь вінтовачнай гільзы — "прапіканы" — і вучыў імі паслугоўвацца ("мерыць заўсёды вышэй вока!").
— Калі забівалі кабана, сам рабіў каўбасы. Вэндзілі іх і шынкі ў маскаля Юліна. Потым ён іх прывозіў. Павінны былі вісець у кладоўцы пад сходамі на гару некалькі месяцаў.
— Бацька часта хадзіў на возера ("Прасьветы") купацца, вядома, разам зь сям'ёю. Яшчэ часьцей хадзіў на рыбы, у чым часам удзельнічаў і я. Аднойчы стаялі аж да абеду і нічога не злавілі. Ідучы назад, бацька купіў у жыда вялікага шчупака і прыказаў мне не гаварыць маме, што куплены.
— Найбольш дастаў я ад бацькі "ў скуру" за "акцыю" здабыцьця матэрыялу на пабудову казармаў для майго войска. У выніку гэтай акцыі накралі мы зь недалёкага тартаку шмат дошак, якія схавалі пад нашай вэрандай ("Што ж гэта за войска без казармаў..."). Пасьля "правалу" ўсё давялося аднесьці ў тартак і яшчэ перапрасіць яго ўладальніка. А гэта было, бадай, горшае, чым папруга...

Гэтыя эпізоды запісаліся ў памяці 9–гадовага хлопчыка. Столькі мне было гадоў, калі памёр бацька. 15 ці 16 верасьня 1938 г. паехаў ён да хворага за возера. Ехаў на маторнай лодцы, прастудзіўся, тры дні была высокая гарачка і ніякай лекарскай дапамогі. Памёр 19 верасьня 1938 г. каля 5–й гадзіны раніцай.

Як гэта сталася, што бацька быў пахаваны не на парафіяльных, "агульных", могілках каля вёскі Канюкі, а на невялічкім магільніку ў Старых Дукштах, які належаў да маёнтку Занаў, доўгі час мне не было вядома. Нічога ў гэтай справе не магла выясьніць і мама, якая тады была хворая і ў пахаваньні ня ўдзельнічала. Аб гэтым расказаў мне ў 1979 г. у Варшаве Тамаш Зан: ён сам заняўся пахаваньнем і выбраў месца вечнага супачынку Браніслава Туронка.

Памятаю, што было тады многа народу, шмат вянкоў... З бацькавай сям'і была сястра Фартуня і брат Уладзіслаў. Зь віленскіх сяброў, здаецца, не было нікога. Магчыма, ніхто іх не паведаміў.

* * *

У 1958 г. я адведаў бацькаву магілу. Крыж спарахнеў і паваліўся. Паставіў яго і прывязаў дротам да жалезнай агароджы. Другі раз быў на магіле ў 1979 г. Усё было па–старому.

І яшчэ. Калі ў ліпені 1979 г. я шукаў у Віленскім унівэрсытэце бацькаву студэнцкую папку, адбылася з служачай яго рукапіснага аддзелу такая вось размова:

Яна: ... А калі памёр?
Я: У 1938 годзе.
Яна: Ой, могуць быць цяжкасьці...
Я: Але памёр на тагачаснай польскай тэрыторыі...
Яна: Ах, як добра! Тады дырэктар хіба дазволіць...

Можна думаць, што Браніслаў Туронак памёр "своечасова", хоць было яму толькі 42 гады. Праз год прыйшла ў Дукшты Чырвоная Армія і многія бацькавы сябры разьвіталіся з родным краем на многія гады, або назаўсёды...

## 6. Ацэны

Як ужо ведаем, пасьля сьмерці бацькі 10 кастрычніка 1938 г. віленская "Chryścjanskaja Dumka" зьмясьціла артыкул кс. Адама Станкевіча, прысьвечаны жыцьцю і дзейнасьці

Браніслава Туронка. Падобны артыкул Язэпа Найдзюка зьявіўся і ў “Шляху Моладзі”[46]. Абодва артыкулы пазытыўна ацэньвалі ягоны жыцьцёвы шлях, падкрэсьлівалі заслугі перад беларускім народам.

Гэтыя ацэнкі выклікалі рэпліку штомесячніка “Беларускі Фронт” — “незалежнага народна–радыкальнага часапісу”, які быў органам групоўкі кс. Вінцука Гадлеўскага — колішняга старшыні Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры. У склад яго рэдакцыйнай калегіі ўваходзілі Вінцук Гадлеўскі, Лявон Дубейкаўскі, Вацлаў Папуцэвіч і Мікола Шкялёнак. 7 лістапада 1938 г. у гэтым часапісе была зьмешчана наступная нататка:

> *Сьмерць Д–ра Туронка.* У канцы верасьня сёлета памёр у Дукштах, Брасл. пав. др. Браніслаў Туронак. Будучы студэнтам, прыймаў даволі дзейнае ўчасьце ў беларускім нацыянальным і грамадзкім жыцьці, пасьля ж, здабыўшы дыплём доктара мэдыцыны і становішча, ад бел. працы адыйшоў. Хоць частка беларускай прэсы пасьля сьмерці д–ра Туронка пісала аб ім пахвальныя словы, то справядлівасьць вымагае сьцьвердзіць, што др. Туронак да самай сьмерці аставаўся ў радох бязьдзейнай беларускай інтэлігенцыі. Уважаем, што замест пахвальных гімнаў трэба праўду пісаць ня толькі за жыцьця бязьдзейнага інтэлігента, але і пасьля ягонай сьмерці — на вечны ўспамін жывучым!

На гэтыя заўвагі “Беларускага Фронту” 20 лістапада 1938 году “Chryścjanskaja Dumka” адказала як наступае:

> De mortibus aut bene aut nihil[47].
>
> ...Крыўду зрабіла сьв. п. др. Б. Туронку адна беларуская газэта, стаўляючы яму закід бязьдзейнасьці на беларускай ніве. Тым часам св. п. др. Б. Туронак ня толькі будучы студэнтам, але і пасьля, працуючы на правінцыі, заўсёды быў з намі ў кантакце, выпісваў беларускія газэты («Хрысьціянская Думка», «Шлях Моладзі», «Калосьсе», «Самапомач»), гадаваў дзяцей у беларускім народным духу і падтрымліваў матэрыяльна беларускую прэсу і розныя беларускія імпрэзы.
> Праўда, сьв. п. др. Б. Туронак не займаўся палітыканствам, але гэта так жа яму трэба залічыць не на мінус, а на плюс.

Палеміка працягвалася, і 7 сьнежня 1938 г. у “Беларускім Фронце” зьявіўся чарговы адказ “Chryścjanskaj Dumcy”:

> ...Тыя довады, якія “Хрысьціянская Думка” высоўвае ў абароне д–ра Туронка (чытаньне беларускае прэсы, гутарка зь дзяцьмі па–беларуску і іншыя) яшчэ не пераконваюць, каб на падставе гэткай “дзейнасьці” лічыць беларускага інтэлігента дзейным. Уважаем, што каб пісаць аб такім інтэлігенце пахвальныя словы, трэба каб ён заслужыў на іх сваёй грамадзкай дзейнасьцяй, якой нажаль др. Туронак пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту не праяўляў. Аб гэтым усім ведама. <...> Уважаем, што пісаньне праўды аб нябошчыку мае вялікае маральнае і ўзгадаваўчае значэньне для жывучых!

На гэта “Chryścjanskaja Dumka” не адказала больш нічога.

Цікава заўважыць, што пасьля апублікаваньня ў “Беларускім Фронце” першай нататкі[48] яго рэдкалегію пакінулі Дубейкаўскі і Шкялёнак, у выніку чаго адзіным рэдактарам часопіса застаўся кс. Гадлеўскі, а студэнт Папуцэвіч значыўся як яго выдавец. На

[46] 1938. 25 кастрычніка.
[47] Пра нябожчыкаў або добра, або нічога (лац.). — *А.П.*
[48] 1938. 7 лістапада.

запытаньне аб прычыне гэтага расколу Язэп Найдзюк адказаў, што Дубейкаўскі і Шкялёнак не згаджаліся з нападкамі “Беларускага Фронту” на дзяячоў БХД[49]. Уся гэтая справа ўзьнікла, несумненна, на фоне палемікі вакол Б. Туронка, паколькі ў лістападзе 1938 г. толькі ён быў прадметам спэцыяльнага зацікаўленьня “Беларускага Фронту”.

Хоць гэтая палеміка адбывалася ананімна, няма сумневу, што яе аўтарамі былі Станкевіч і Гадлеўскі. Кожны зь іх меў падставу для сваіх выказваньняў. Ацэнка Станкевіча апіралася на добрае супрацоўніцтва з бацькам у 20–я гады, затое Гадлеўскі як былы старшыня БІГіК цяпер асуджаў бясплоднае фігуранцтва бацькі ўва ўладах Інстытуту ў 1929—1934 г. Пры гэтым дапускалася недакладнасьць, паколькі — як ведаем — пасьля атрыманьня дыплёму (1926) яго актыўная дзейнасьць працягвалася яшчэ два гады — да выезду зь Вільні. Аднак, вядома, істота справы ня ў гэтых двух гадох, а ў выезьдзе бацькі на пастаяннае пражываньне ў Дукшты — на пэрыфэрыю руху.

* * *

Што дасягнуў бацька за сваё жыцьцё? Жыў мала — 42 гады, большую частку якіх прысьвяціў здабыцьцю прафэсіі. Лекарам працаваў толькі 11 гадоў. У гэты час імкнуўся стварыць адпаведныя ўмовы для сям’і. Былі немалыя здабыткі ў Дукштах, якія, аднак, у ліпені 1944 г. пайшлі з дымам.

Разам зь імі згарэлі ўсе калекцыі кніг, часопісаў, альбомы і іншыя паперы. Засталася вельмі скромная друкаваная спадчына.

Людзі, якім нёс дапамогу, па нейкім часе яшчэ ўспаміналі свайго лекара, а пазьней — забыліся.

Урэшце, дзеці — хіба найбольшая “інвэстыцыя” і надзея бацькі — асірацелі ў 9, 7, і 3–гадовым узросьце, у сувязі з чым цяжка ацэньваць і рэзультаты ўзгадаваўчых мерапрыемстваў. Старэйшым застаўся даволі абстрактны вобраз і ўспамін бацькі, а наймаладзейшы ня меў і таго.

Нягледзячы на супярэчлівыя ацэнкі, найбольш трывалай спадчынай бацькі аказалася яго грамадзкая дзейнасьць у Беларускім студэнцкім саюзе, “Крыніцы”, Беларускім сялянскім саюзе і Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры. Яе вартасьць можна разглядаць у гістарычным вымярэньні.

Ці гэтыя дасягненьні былі б большыя, калі б у 30–я гады бацька жыў у Вільні? Думаю, што не. У той выключна неспрыяльны для Беларусі час дасягненьняў наогул было мала — і на ўсходзе і на захадзе. Хто ня выехаў зь Вільні сам, таго ў канцы 30–х гадоў палякі высялялі адміністрацыйным парадкам[50]. Магчыма, праяўляецца тут тэндэнцыйнасьць аўтара, якая грунтуецца на эмацыянальным субстраце сына да бацькі. Няхай іншыя судзяць больш аб’ектыўна.

*Друкуецца паводле:* Туронак Ю. Памяці Браніслава Туронка. Варшава–Нью–Ёрк, БІНіМ. 1990.

[49] Ліст да аўтара ад 21.11.1979 г.

[50] Адам Станкевіч разам зь іншымі беларускімі дзеячамі — Уладзіславам Талочкам і Адольфам Клімовічам — быў высланы зь Вільні ў сьнежні 1938 г. Фармальнай падставай для гэтага стала неабходнасьць высяленьня “ненадзейных” элемэнтаў з памежнай зоны згодна з дэкрэтам прэзыдэнта Польшчы “Аб межах дзяржавы”. — *А.П.* В. Гадлеўскі не высяляўся палякамі, а ў верасьні 1939 г. уцёк зь Вільні ў Каўнас, ратуючыся перад бальшавікамі. — *Ю.Т.*

# Дзейнасьць беларускага выдавецтва “Загляне сонца і ў наша аконца” ў Пецярбургу[1]

Першая легальная беларуская выдавецкая суполка пад назвай “Загляне сонца і ў наша аконца” была зарэгістраваная ў Пецярбургу ў траўні 1906 г. За колькі месяцаў у Вільні выйшлі першыя беларускія тыднёвікі — “Наша Доля” (у верасьні) і “Наша Ніва” (у лістападзе). Абодва выдавецкія асяродкі адыгралі перад першай сусьветнай вайной вызначальную ролю ў пашырэньні беларускага друку, разьвіцьці беларускай мовы і літаратуры і ў пашырэньні сярод беларусаў нацыянальнай сьвядомасьці. Аднак беларуская і замежная гістарыяграфія аддавала рашучую перавагу “Нашай Ніве”, здаўна правакуючы жарсныя дыскусіі наконт яе генэзы, ідэйных кірункаў і ролі ў працэсе беларускага нацыянальнага адраджэньня. Нярэдка рабіліся спробы ахарактарызаваць увесь беларускі літаратурна–грамадзкі рух у 1906—1914 г. як “нашаніўскую пару”. На беспадстаўнасьць гэтага зьвярнуў увагу Алег Лойка, слушна зазначыўшы, што такая назва ня ўлічвала ўсіх сілаў, інсьпірацыяў і кірункаў думкі, якія ўплывалі на лёс новай беларускай літаратуры[2]. Няма сумневу, што акурат такая ацэнка значэньня “Нашай Нівы” схіліла некаторых аўтараў да цьверджаньняў, якія ў сьвятле пададзенай вышэй храналёгіі ня маюць падставаў, а менавіта, што калектыў “Нашай Нівы” адыграў значную ролю ўва ўзьнікненьні, між іншым, беларускага выдавецтва ў Пецярбургу[3].

Перабольшаньне ролі “Нашай Нівы” было як прычынай, так і вынікам негрунтоўных ведаў аб дзейнасьці пецярбурскага выдавецтва “Загляне сонца...”. І сапраўды, на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў гісторыкі беларускай літаратуры надавалі яму няшмат увагі. У дваццатыя гады Максім Гарэцкі і Ўсевалад Ігнатоўскі абмежаваліся кароткай агульнай згадкай пра дзейнасьць гэтага выдавецтва, падкрэсьліваючы ролю Вацлава Іваноўскага як яго арганізатара[4]. Не нашмат больш зьвестак пра пецярбурскую суполку падаў у 1935 г. А. Станкевіч, пры гэтым значна занізіўшы вынік яе дзейнасьці і выпукліўшы ролю Браніслава Эпімах–Шыпілы як вядучага дзяяча гэтага выдавецтва[5]. Гэтыя

---

[1] Назва выдавецтва ў артыкуле падаецца паводле сучаснага беларускага правапісу. Яго арыгінальная назва, зьмешчаная на выдадзеных кнігах, гучэла: “Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ”. Гэтая прымаўка, якая выражае надзею на лепшую будучыню, у канцы XIX ст. выкарыстоўвалася як слоган для нелегальных беларускіх выданьняў, напрыклад: Боровик Д. “Письма о Белоруссии” (1882), а таксама выданьне пад назвай “Дзядзька Антон” (Тыльзыт, 1892).

* Лойка Алег (нар. 1933) — беларускі паэт і літаратуразнаўца. — *А.П.*

[2] Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Ч. II. Мінск, 1980. С. 19.

[3] Antologia poezii białoruskiej. Wyb. i oprac. J. Huszcza, wstęp A. Barszczewski. Wrocław: Ossolineum, 1978. S. 23; Vakar N.P. Belorussia. The Making of a Nation. Harward University Press Cambridge (Mass), 1956. P. 88.

[4] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1921. С. 132, 205; Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Менск, 1926. С. 218.

[5] Станкевіч А. Прафэсар Браніслаў Эпімах–Шыпіла. Вільня, 1935. С. 17; Станкевіч распачаў навучаньне ў Рыма–каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу ўвосень 1914 г., у пару, калі суполка “Загляне сонца...” ужо спыніла сваю дзейнасьць. Дзеля гэтага зробленая Станкевічам ацэнка ролі Шыпілы як “душы” гэтага выдавецтва не была вынікам асабістых назіраньняў, а барджджэй выразам пашаны, якую ён меў да постаці прафэсара як мовазнаўцы і выкладніка Духоўнай акадэміі — гл. у сувязі з гэтым: Ксёндз Адам Станкевіч у 25–ыя ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915—

зьвесткі Станкевіча ў 1960 г. паўтарыў Віталь Вольскі, з чаго вынікае, што з 1935 г. дасьледаваньняў гэтай праблематыкі практычна не вялося[6]. Адно ў 1968—1971 г. зьявіліся працы Сьцяпана Александровіча і Рыгора Семашкевіча, у якіх давалася характарыстыка ўсёй дзейнасьці суполкі, якая ацэньвалася як найбольшая да першай сусьветнай вайны беларуская выдавецкая арганізацыя з выдатнымі заслугамі ў разьвіцьці беларускай літаратуры[7].

Працяг дасьледаваньняў гісторыі суполкі "Загляне сонца..." грунтаваўся перадусім на польскіх архіўных матэрыялах, у т.л. асабліва перапісцы Іваноўскага зь Ельскім (1905—1906 г.), а таксама іншых крыніцах, якія не былі выкарыстаныя памянёнымі беларускімі дасьледнікамі. Яны дазваляюць лепш разглядзець генэзу гэтага выдавецтва і паказаць яго стваральнікаў, якіх дагэтуль узгадвалі, тлумачачы яго ўзьнікненьне як у пэўным сэнсе аўтаматычны вынік расейскай рэвалюцыі 1905 г. У гэтым кантэксьце асабліва важным пытаньнем уяўлялася ацэнка новай нацыянальнай палітыкі расейскага ўраду. Дасьледаваньні аўтара дазволілі таксама перагледзець некаторыя зьвесткі аб выдавецкім працэсе, паказаць удзел Янкі Купалы ў дзейнасьці суполкі, а таксама даць новы погляд на заканчэньне яе дзейнасьці. Адносна менш увагі прысьвечана падрабязным ацэнкам значэньня паасобных выдадзеных суполкай твораў і іх літаратуразнаўчаму аналізу. Гэтае пытаньне шырока і кампэтэнтна абгаварылі С. Александровіч і Р. Семашкевіч.

Юрыдычнай падставай легальнай выдавецкай дзейнасьці на беларускай мове быў выдадзены 12 (25) сьнежня 1904 г. указ цара Мікалая II, які скасоўваў ранейшыя абмежаваньні ўжытку мясцовых моў у заходніх губэрнях Расейскай імпэрыі — Гарадзенскай, Кіеўскай, Ковенскай, Менскай, Магілёўскай, Падольскай, Віленскай, Віцебскай і Валынскай[8]. Прыняцьце гэтага рашэньня наконадні першай расейскай рэвалюцыі было адным з захадаў ураду, які меў на мэце передухіленьне сацыяльнай напружанасьці, якая ўзмацнілася на фоне непапулярнай расейска–японскай вайны. Рэвалюцыйныя настроі ахоплівалі сапраўды вялікія абшары расейскай дзяржавы, аднак у заходніх губэрнях яны мелі спэцыфічны характар — бо тут сацыяльныя перадумовы спляталіся з нацыянальным прыгнётам.

Фармальна палажэньні ўказу ў роўнай меры тычыліся ўсіх моў гэтага абшару (беларускай, літоўскай, польскай, украінскай, жыдоўскай і іншых), што, аднак, не забясьпечвала іх фактычнай роўнасьці. Гэтаму спрыялі наступствы нацыянальнай палітыкі расейскага ўраду, якая ў гэтай галіне здаўна была вельмі дыфэрэнцыяваная. Таму ў той час, калі — нягледзячы на абмежаваньні — адметнасьць літоўскай, польскай і жыдоўскай моў ня ставілася пад сумнеў, то роднасныя ўсходнеславянскія мовы, беларуская і ўкраінская ("маларуская"), афіцыйна трактаваліся як гаворкі расейскай мовы. З гэтай прычыны, імкнучыся процідзеяць узьнікненьню альбо разьвіцьцю непажаданых сэпаратысцкіх тэндэнцыяў, расейскія ўлады тармазілі разьвіцьцё гэтых моў і нацыянальных літаратур. У 1899 г., забараняючы публікацыю кнігі Францішка Багушэвіча "Беларускія апавяданьні", царская цэнзура выказала асьцярогу, "ці ня крыецца ў

---

10.01.1940). Зрэдагаваў і выдаў магістар Ян Шутовіч. Вільня, 1940. С. 39; На грунце меркаваньня, выказанага Станкевічам, у сучаснай беларускай навуцы аб літаратуры ўкараніўся памылковы погляд, быццам Браніслаў Эпімах–Шыпіла быў ініцыятарам і фактычным кіраўнікам дадзенай выдавецкай суполкі.

[6] Вольскі В. Матэрыялы да біяграфіі Янкі Купалы 1882—1910 // Любімы паэт беларускага народа. Мінск, 1960. С. 76.

[7] Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. Мінск, 1968; яго ж. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971; Семашкевіч Р. Браніслаў Эпімах–Шыпіла. Мінск, 1968; яго ж. Беларускі літаратурна–грамадскі рух у Пецярбурзе. Мінск, 1971.

[8] Шлюбскі А. Адносіны расійскага ўраду да беларускае мовы ў XIX ст. // Запіскі аддзелу гуманітарных навук Інстытуту Беларускай Культуры. Кн. 2. Працы клясы філёлёгіі. Т. I. Менск, 1928. С. 303.

такіх творах тэндэнцыя стварэньня, апрача “маларускай”, яшчэ і беларускай літаратуры, а тым самым падрыву і аслабленьня адзінства літаратуры і нацыянальнасьці, а ў выніку — таксама палітычнай магутнасьці расейскага народу”[9]. Троху раней кіеўскі цэнзар Рафальскі, пішучы аб узьнікаючым беларускім нацыянальным руху, заклікаў: “Трэба яго задушыць у пачатках, у зародку, бо пазьней у нас будзе такі ж самы клопат, як з украінафільствам”[10].

Таму ўказ Мікалая ІІ, скасоўваючы абмежаваньні друку таксама на беларускай і ўкраінскай мовах, азначаў істотную зьмену традыцыйнай расейскай палітыкі да гэтых нацыяў. Што выклікала гэтае важнае і беспрэцэдэнтнае рашэньне? Шматлікія меркаваньні, што яно было наступствам рэвалюцыі 1905 г., якая прымусіла валадара Расеі выдаць такі ўказ, не тлумачаць справы да канца, а асабліва матываў гэтага рашэньня. Па–першае, царскі ўказ быў выдадзены да рэвалюцыі і, па–другое, ніводная зь дзейных тады ў Беларусі ўплывовых палітычных партыяў не патрабавала такога роду саступкі да беларускай мовы.

Ніякага ўплыву на рашэньне цара не аказаў таксама грамадзкі попыт на беларускую кнігу, якая на зломе XIX і XX ст. была яшчэ надзвычай рэдкай зьявай[11].

Таму няма сумневу, што рашэньне скасаваць абмежаваньні ў друку на беларускай мове было ў сутнасьці наступствам памянёных палітычных перадумоў на заходніх ускрайках імпэрыі. Непрызнаньне нацыянальнай адметнасьці беларусаў і тармажэньне разьвіцьця іх мовы і літаратуры спрыяла пашырэньню сярод інтэлігенцыі апазыцыйных настрояў, якія прыводзілі яе ў польскі незалежніцкі рух, чаму спрыялі традыцыйныя ўплывы польскай культуры ў Беларусі. Асабліва небясьпечнай з гледзішча дзяржаўных інтарэсаў Расеі была актывізацыя дзейнасьці Польскай сацыялістычнай партыі (ППС), якая ў канцы XIX ст. сфармулявала праграму супольнае барацьбы з царызмам ды імкнулася да пашырэньня сваёй дзейнасьці сярод беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў, паслугуючыся, між іншага, агітацыйнай літаратурай на іхніх мовах[12]. Палітычныя саступкі царызму яўна адпавядалі культурным імкненьням гэтых народаў і былі разьлічаныя на тое, каб заручыцца іх ляяльнасьцю да Расеі і тым самым стварыць процівагу польскім палітычным уплывам.

Цяжэй адназначна ацаніць, ці гэты крок ураду сапраўды сьведчыў пра прызнаньне права беларускага народу на вольнае разьвіцьцё мовы і літаратуры, ці быў толькі тактычным ходам. Аб прапагандысцкім аспэкце ўказу сьведчыць даволі абмежаваная сфэра ўжытку беларускай мовы. Да таго ж не адбылося афіцыйнага прызнаньня яе адметнасьці. Яе не дапусьцілі і да ўжытку ў дзяржаўных школах нават у такім сьціплым маштабе, як польскую і літоўскую. Аднак ацэнка такога стаўленьня да беларускай мовы павінна браць пад увагу факт, што толькі ўвосень 1904 г. была распачатая распрацоўка першага беларускага лемантара, а да выхаду першай граматыкі заставалася яшчэ чатырнаццаць гадоў[13]. Такім чынам, не існавала найменшых перадумоў для таго, каб сытуацыя зь беларускай мовай адразу зьмянілася. Дзеля гэтага, пакідаючы ўбаку больш ці менш абгрунтаваныя ацэнкі нацыянальнай палітыкі ўраду, можна з пэўнасьцю сьцьвердзіць, што ўказ Мікалая ІІ стварыў магчымасьць для дзеяньняў на карысьць зьмены сытуацыі з гэтай мовай у будучыні. Урад сапраўды ня быў зацікаўлены ў паскарэньні гэтага працэсу, але прынцыпова не тармазіў, пакідаючы яго ажыцьцяўленьне беларускай інтэлігенцыі.

---

[9] Александровіч С. Гісторыя... С. 166.

[10] Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. Зборнік тэкстаў. Мінск, 1956. С. 317.

[11] Александровіч С. Гісторыя... С. 205—207.

[12] З гісторыі беларускага выдавецкага руху ў 1902—1905 гадох. (С. 41—54 гэтага выданьня. — *Рэд.*); Płochacki L. (Wasilewski L.) We współnym jarzmie. Londyn, 1901.

[13] Абставіны публікацыі і аўтарства першага беларускага лемантара. С. 31—40 гэтага выданьня. — *Рэд.*

Выкарыстаць гэтую магчымасьць узяўся малады выпускнік Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту інжынэр–тэхноляг Вацлаў Івaноўскі, які пасьля праходжаньня ў другой палове 1904 г. пасьлядыплёмнай практыкі ў цукроўні Баравічкі пад Плоцкам у пачатку 1905 г. вярнуўся ў Пецярбург і распачаў навуковую працу ў лябараторыі інстытуту. Выдавецкую дзейнасьць ён пачаў яшчэ падчас сваёй вучобы, засноўваючы з гэтай мэтай нелегальныя арганізацыі — у 1902 г. Беларускую рэвалюцыйную партыю, а пасьля яе распаду на пачатку 1903 г. “Круг беларускай народнай прасьветы”. Вынікам гэтай дзейнасьці было некалькі выданьняў, што выйшлі ў 1902—1904 г. у Пецярбургу і Кракаве[14]. Аднак у новых варунках, якія дазвалялі разьвіваць пастаянную і значна шырэйшую дзейнасьць, неабходныя былі таксама большыя сродкі для дзейнасьці — перш за ўсё грошы і адпаведныя супрацоўнікі. З гэтага гледзішча сытуацыя беларускіх выдаўцоў была найцяжэйшай. Гэта пацьвярджае той факт, што ў 1905 г., г.зн. неўзабаве пасьля выхаду царскага ўказу, у Вільні пачалі выходзіць польскія і літоўскія кнігі і часопісы, аднак не было выдадзена ніводнай беларускай кнігі[15].

Шукаючы супрацоўнікаў з адпаведнымі творчымі інтарэсамі і фінансавымі магчымасьцямі, Іваноўскі ўскладаў асаблівыя надзеі на Аляксандра Ельскага — памешчыка з Замосься Менскай губ., аўтара шматлікіх артыкулаў пра Беларусь, яе мінуўшчыну, мову і літаратуру, аўтара і выдаўца колькіх папулярных кніжак па–беларуску, перакладніка першай кнігі “Пана Тадэвуша” Адама Міцкевіча на беларускую мову, якую выдаў у 1893 г. у Львове[16]. Пра гэта сьведчаць захаваныя ў Галоўным архіве старадаўніх актаў у Варшаве лісты Іваноўскага да Ельскага, якія ўтрымліваюць у тым ліку каштоўныя зьвесткі пра іншыя аспэкты беларускай выдавецкай дзейнасьці на пачатку XX ст, у т.л. пра арганізацыю суполкі “Загляне сонца...”[17]. (У дадатку зьмешчаны фатакопіі ўсіх гэтых лістоў на беларускай мове.)

24 лютага 1905 г. Іваноўскі адправіў Ельскаму свой першы ліст:

Пане Шанаваны,

Чуў я ня раз ад усялякіх людзей і ад панаваго братанца, што вельмі Вы любіце нашу мову і пішэце самы іншы раз у нашай мове. То я хацеў пазнаёміцца з Вамі хаця праз пісулькі, бо што ж, Вы жывецё ў Міншчыні, а я ў Пецербурху.

А такіх людцоў, што нашу мову дый нашага мужыка любяць, мала на сьвеце, то трэба каб хаця кампаніі пілнавалі. А Вы, Пане, самы шмат рабілі, мо і цяпер тае працы не кінулі. Здаецца, мелі Вы выдаць “Марыю” Мальчэўскага, праўда?

Тутака таксама ёсьць людцоў колькі, то пералажылі ксёнжачак крыху, толькі з грашмі кепска... (далей нечытальны выраз. — *Ю.Т.*).

Але таксама, ушоў не апушчаючы, прыгатавалі “Сыгнал” Гаршына, “Міхалка” Пруса, “Крыста” Канапніцкае, “Гутаркі аб небе і зямлі”. Лемантарчык (павэдлуг Промыка) будзе гатоў да друку за месяц.

---

[14] Гэтую дзейнасьць я падрабязна прааналізаваў у артыкуле “З гісторыі беларускага выдавецкага руху ў 1902—1905 гадох” (гл. зацем 12), у якім абгрунтаваў тэзу, што выданьне ў 1904 г. колькіх беларускіх тэкстаў у Кракаве было справай пецярбурскага Круга беларускай народнай прасьветы. Цягам далейшых дасьледаваньняў я выявіў, што аналягічны погляд на дадзенае пытаньне ў 1918 г. выказаў прафэсар Бэрлінскага ўнівэрсытэту Фрыц Куршман. Гл. яго ж: Die Weissruthenen. Ein erwachendes slavisches Bauernvolk // Deutsche Rundschau. T. 176. Berlin, 1918. Гэтае пацьверджаньне асабліва істотнае на фоне дагэтулешніх меркаваньняў, што арганізатарам кракаўскіх выданьняў быў Мар’ян Фальскі. Гл.: Александровіч С. Пуцявіны... С. 120—122.

[15] Александровіч С. Гісторыя... С. 207.

[16] Шырэй аб Ельскім гл.: Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск, 1971. С. 380.

[17] AGAD, zespół Prozorów i Jelskich, sygn, $140_2$.

> І так мне здаецца, што Вы ня менш маеце чаго, от каб усё зараз і выдрукаваць — от былобы дабро. Адпішыце, Паночку, калі часу знойдзеце крыху.
>
> *В. Іваноўскі.*

На ўвагу заслугоўвае другі абзац ліста, у якім Іваноўскі паведамляў пра прыгатаваныя “колькімі людцамі” пераклады. Вядома, што брашура Ўсевалада Гаршына ў беларускім перакладзе была выдадзена ў Маскве ў 1891 г., а яе другое нязьмененае выданьне зьявілася ў Вільні ў 1914 г., таму інфармацыя пра ейны пераклад у Пецярбургу не адпавядала сапраўднасьці. Ніколі таксама суполка “Загляне сонца...” ня выдала згаданых апавяданьняў Пруса і Канапніцкай, што дазваляе меркаваць, што і гэтая інфармацыя была фікцыйнай або што пераклад абодвух гэтых апавяданьняў толькі яшчэ задумваўся. Таму можна меркаваць, што гэта своеасаблівая містыфікацыя была разьлічана на тое, каб зрабіць на Ельскага ўражаньне, быццам выдавецкая дзейнасьць у Пецярбургу пачынае разьвівацца, што ў ёй удзельнічае ўжо “колькі людцоў”, і ў выніку падштурхнуць яго даць дадатны адказ.

Насамрэч сытуацыя была горшая, чым яе акрэсьліў Іваноўскі. Пераклад згаданай у лісьце “Гутаркі аб небе і зямлі”, як пададзена на тытульнай старонцы гэтай кнігі (выдадзенай у 1907 г.), меўся быць зроблены Казімерам Кастравіцкім і С. Шаўлоўскім. Аднак постаць Шаўлоўскага зусім невядомая ў беларускай літаратуры, што дае падставу дапушчаць, што гэта быў псэўданім Вацлава Іваноўскага, які або пераклаў кнігу разам з Кастравіцкім, або таксама — што здаецца больш праўдападобным — грунтоўна паправіў пераклад Кастравіцкага. Той факт, што яна мела 68 старонак друку, дазваляе меркаваць, што пераклад быў падрыхтаваны не пасьля выхаду царскага ўказу, але крыху раней. Лемантар гэтаксама апрацоўваў Іваноўскі. Да таго ж Кастравіцкі ня жыў у Пецярбургу, як і Алёйзія Пашкевіч (Цётка), якая рыхтавала ў той самы час першую беларускую чытанку. Такім чынам, гэтай парой у гэтай галіне ў Пецярбургу дзеяў адзін Іваноўскі, і таму зьмешчаная ў яго лісьце інфармацыя аб калектыве, які складаецца зь некалькіх чалавек, адпавядае барджджэй перабольшаньням аўтара, што маюць мала супольнага з сапраўднасьцю.

Як сьведчыць далейшая карэспандэнцыя, адказ Ельскага на прапанову зьяднаць выдавецкія намаганьні быў адмоўны ці расплывісты. Істотнай прычынай гэтага быў удзел Іваноўскага ў Беларускай сацыялістычнай грамадзе, што магло ўзбуджаць у Ельскага — прыхільніка сацыяльнага кансэрватызму — асьцярогу, што выдавецкая дзейнасьць у Пецярбургу будзе адлюстроўваць радыкальныя праграмныя палажэньні гэтай партыі. Ня выключана таксама, што, стоячы на грунце традыцыйнай у ягоным асяродку формулы “gente Rutheni, natione Poloni”, ён не салідарызаваўся з мэтамі моладабеларускага руху. Пра гэта можа сьведчыць шматзначная зацемка на канвэрце атрыманага ліста: “Białorusin Iwanowski”[18].

Аднак у тагачасных умовах практычна толькі памешчыцкі асяродак быў у стане забясьпечыць істотнымі фінансавымі сродкамі выдавецкую дзейнасьць. Духавенства ж, якое было важным натхняльнікам нацыянальнага руху ў Літве, у тагачасных беларускіх умовах яшчэ не ўваходзіла ў разьлік. Пры такім стане рэчаў, нягледзячы на першую няўдачу, Іваноўскі 31 красавіка 1905 г. зноў зьвяртаецца да Ельскага:

> Ці ня маеце знаёмых якіх, што захацелі б ксёнжачак выдаць па–нашаму? Тож ёсьць напісаныя. Кажуць, што Вайніловіч — той мог бы выдаць, мо знаеце яго?

Задума абаперціся на Эдварда Вайніловіча была сьмелая і далёкасяжная: Вайніловіч быў ня толькі земляўласьнікам у Беларусі, але і старшынём Сельскагаспадарчага тава-

[18] Тамсама.

рыства ў Менску, у сувязі з чым ягоная прыхільнасьць рэальна паўплывала б на пазыцыю і падтрымку беларускага абшарніцтва. На добры лад, гэтая задума не была цалкам беспадстаўная — Вайніловіч ставіўся з сымпатыяй да выдавецкай дзейнасьці Ельскага на беларускай мове, пра што Іваноўскі, напэўна, ведаў[19]. Аднак з прычыны рэвалюцыйных падзеяў 1905 г. і Вайніловіч адмовіўся дапамагаць. Пра тое, што Вайніловіч кіраваўся клясавымі поглядамі, ён недвухсэнсоўна напісаў у сваіх “Успамінах”:

> Ад беларускіх суполак, заўсёды беручы ў іх сякі–такі матэрыяльны ўдзел, я ўрэшце адыйшоў, бо праца, пачатая ў іх у кірунку самапазнаньня і нацыянальнага адраджэньня (“Лучынка”, “Саха”, “Загляне сонца і ў наша аконца” і г.д.), у канцы набыла сацыялістычныя лёзунгі і кірунак, якому я ня мог пакланяцца насуперак маім перакананьням[20].

Увесну 1905 г. Іваноўскі абдумваў таксама іншую канцэпцыю, што прадугледжвала стварэньне выдавецкага таварыства, якое б дзеяла паводле прынцыпаў каапэратыву ці акцыйнай суполкі. Ён выклаў гэтую задуму ў лісьце да Ельскага ад 15 траўня 1905 г. гэтак:

> Пане Сваячэ, а каб зрабіць таварыства для друкаваньня беларускіх ксёнжак, так, як украінцы маюць, то добра былоб. Здаецца мне, што можна былоб найсьці людзёў, што плацілі бы ў год — ну рублёў дзесяць — тож знайсьці можно людзёў з 20 на пачатак — от і дзьве ксёнжкі што году аддрукавалібы.

Цяжка сьцьвярджаць, ці задума стварэньня суполкі была выключна вынікам немагчымасьці знайсьці сярод абшарнікаў адпаведнага мэцэната. Дата зацытаванага ліста паказвае, што ён быў напісаны адносна рана, а таму можна яго трактаваць барждзэй як альтэрнатыўную канцэпцыю. Аднак ужо найбліжэйшая будучыня паказала, што толькі шляхам калектыўных высілкаў можна было стварыць неабходныя падставы для дзейнасьці, хаця з прычыны малалікасьці, незаможнасьці і ў вялікай ступені абыякавасьці беларускай інтэлігенцыі і такі шлях напачатку не даваў надзеі сабраць сур’ёзныя фінансавыя сродкі. Пра гэта красамоўна сьведчыў разьлік выдаваць толькі дзьве кніжкі ў год.

Вынік арганізацыйнай дзейнасьці ў другой палове 1905 г. і на пачатку 1906 г. быў, аднак, больш аптымістычны. 1 студзеня 1906 г. у суполцы налічвалася ўжо 45 удзельнікаў з унёскамі па 10 руб., значыць, суполка распараджалася прынамсі 450 руб. Адначасова была створаная ўправа з шасьці г.зв. сяброў–заснавальнікаў, якія ўнесьлі 250 руб. Такім чынам, агульны капітал суполкі склаў на пачатку 1906 г. 700 руб., што дазваляла распачаць выдавецкую дзейнасьць.

Працы Александровіча і Семашкевіча не даюць адказу на пытаньне, хто ж былі першыя супольнікі выдавецтва. Аднак, мяркуючы па дзесяцірублёвых унёсках, сярод іх не было Вайніловіча ці іншых багатых людзей. Вядомы склад управы суполкі. Старшынём стаў Вацлаў Іваноўскі, а сакратаром — пецярбурскі службовец Уладзіслаў Сталыгва.

---

[19] У гэтым кантэксьце варта прывесьці характэрнае выказваньне Эдварда Вайніловіча, пададзенае ў лісьце да Ельскага (ад 12 траўня 1896 г.) пасьля атрыманьня яго беларускіх брашур:

> Шаноўны пане Дабрадзею, я перакананы, што гэтыя беларускія брашуркі борзда разыйдуцца <…>, калі наша шматлікае абшарніцтва зьбярэцца на пасяджэньні Сельскагаспадарчага таварыства ў Менску: кожны з нас засынаў у калысцы пад народныя песьні нашых нянек і выхавацелак. *Кожны на гэтай мове <…> гаворыць зь мясцовым народам*, і ўсе *старадаўнія радавыя дакумэнты* звычайна *напісаныя на гэтай мове*: таму чэсьць Шаноўнаму пану, што пасьля доўгай пярэрвы да нас адазваліся так па–свойску. Тамсама, справа 140, к. 141—144 (вылучана мною. — *Ю.Т.*).

[20] Wojniłowicz E. Wspomnienia 1847—1928. Cz. I. Wilno, 1931. S. 210—211.

Сябрамі ўправы былі пэдагог і супрацоўнік унівэрсытэцкай бібліятэкі Браніслаў Эпімах–Шыпіла, інжынэр–тэхноляг Юры (Ежы) Іваноўскі — старэйшы брат Вацлава, дзяяч ППС; студэнт Горнага інстытуту Вінцэнт Валейка і настаўнік школы пры лютаранскім храме сьв. Пятра ў Пецярбургу Уладзіслаў Калашэўскі[21].

13 траўня 1906 г. згаданыя сябры–заснавальнікі ўклалі да канца 1908 г. натарыяльную дамову, паводле якой несьлі салідарную адказнасьць за дзейнасьць і абавязаньні суполкі[22]. Але ў беспасярэдняй дзейнасьці выдавецтва яны выконвалі розную ролю. На першым яе этапе (да канца 1908 г.) практычна ўсю рэдакцыйную працу рабілі два чалавекі — Вацлаў Іваноўскі і Браніслаў Эпімах–Шыпіла. Абодва вылучаліся вялікай працавітасьцю, прычым энэргія і прадпрымальнасьць першага ўдала дапаўнялася эрудыцыяй і скрупулёзнасьцю другога. Яны былі знаёмыя колькі гадоў, але Шыпіла, нягледзячы на зацікаўленьне беларускаю літаратурай, у 1902—1904 г. ня браў удзелу ў выдавецкай дзейнасьці нелегальных беларускіх арганізацыяў у Пецярбургу[23]. Ён далучыўся да гэтай дзейнасьці толькі ў 1905 г., ужо ў легальных умовах, перадаўшы ў распараджэньне суполкі частку свае кватэры на Васільеўскім востраве (4 лінія, кв. 45)[24]. Астатнія сябры ўправы выконвалі адміністрацыйныя функцыі, як Сталыгва, ці абмяжоўваліся фінансавым удзелам[25].

Спрэчным застаецца пытаньне, калі суполка “Загляне сонца...” пачала выдавецкую дзейнасьць. На думку Александровіча, гэта адбылося толькі пасьля яе фармальнага заснаваньня ў траўні 1906 г., і тады ж — пісаў ён — “досыць апэратыўна <...> пачынаецца праца над рукапісамі беларускіх падручнікаў, якія неўзабаве былі здадзеныя ў друк і выйшлі ў кастрычніку—лістападзе 1906 г.”[26]. У сапраўднасьці, як я заўважыў вышэй, рукапісы гэтых падручнікаў, г.зн. лемантара, чытанкі Цёткі і “Гутарак аб небе і зямлі”, былі падрыхтаваныя ўжо ў 1904—1905 г. Іваноўскі ў чарговым лісьце да Ельскага ад 17 красавіка 1906 г. паведаміў важныя зьвесткі наконт таго, калі быў распачаты іх друк[27]:

> Некалькі людцоў “тутэйшых”, што ў Пецярбурху жывуць, залажылі выдаўніцкую суполку. Цяпер адбіваецца элемэнтар, будзе дваякімі знакамі, гэта значыць, папросту кажучы, зразу будуць два элемэнтары. Ці не прыступілібы і Вы да тае суполкі? Удзялы, з правам карыстаньня з зыску, будуць па 10 рублёў кожны.
> Не гуляючы будзе адбіты ўстаў суполкі, то Вам яго прышлю поштаю.

Зацытаваная інфармацыя Іваноўскага сьведчыць, што дату ўкладаньня натарыяльнай дамовы сяброў–заснавальнікаў суполкі (13 траўня 1906 г.) нельга атаясамліваць з

---

21 Тамсама: AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_1$, k. 160. Ліст Сталыгвы да Ельскага 29.07.1906.

22 Наша Ніва. 1909. 22 кастрычніка.

23 Што да сустраканых часам у літаратуры на гэтую тэму адрозных поглядах на гэтую справу трэба сказаць, што Цётка — актыўная дзяячка гэтых арганізацыяў падчас свайго перабываньня ў Пецярбургу (1902—1904 гады), наогул ня ведала Браніслава Шыпілы. Гэта несумненна пацьвярджае яе ліст да Шыпілы (ад 28 чэрвеня 1906 г.), у якім яна, між іншым, пісала: “Выбачайце, што незнаёмая і пішу да вас. Я Пашкевічанка, вам аба мне казаў Іваноўскі, бо то калісь прабавала вершы пісаць і іх вам чыталі”. Гл.: Бібіла Ю. Матар’ялы да біографіі Цёткі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук ІБК. Кн. 2. Працы клясы філёлёгіі. Т. I. Менск, 1928. С. 296.

24 Перадача часткі кватэры пад сядзібу суполкі, безумоўна, была формай матэрыяльнага ўнёску Б. Шыпілы.

25 Такой была ў прыватнасьці роля Юр’я Іваноўскага. Бо ў адрозьненьне ад малодшых братоў, Вацлава і Тадэвуша, адзін зь якіх самаакрэсьліўся як беларус, а другі — як літовец, Юры ўважаў сябе за паляка, што прынамсі не перашкаджала яму падтрымліваць беларускія ініцыятывы брата.

26 Александровіч С. Гісторыя... С. 170, 172.

27 Ліст не датаваны. Штамп пецярбурскай пошты на капэрце сьведчыць, што ён быў высланы 17 красавіка 1906. Гл.: AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_2$.

датаю яе заснаваньня. Суполка ўзьнікла раней і сама позна ў пачатку красавіка 1906 г. здала ў друк першыя кнігі. Таму найбліжэйшаю да сапраўднасьці датаю заснаваньня суполкі трэба было б лічыць 1 студзеня 1906 г.— дату яе першае фінансавае справаздачы.

Ранейшае, чым меркавалася, узьнікненьне суполкі "Загляне сонца...", а не яе асаблівая апэратыўнасьць (хаця і з гэтага гледзішча яна была бездакорная), тлумачыць хуткае ажыцьцяўленьне праграмы выданьня падручнікаў. Ужо ў ліпені быў надрукаваны "Biełaruski lemantar abo pierszaja nawuka czytańnia" (лацінскі варыянт) і сэрыя паштовак[28], а на працягу бліжэйшых тыдняў яго варыянт кірыліцай і "Першае чытаньне для дзетак беларусаў" Цёткі (таксама ў абодвух графічных варыянтах). У сярэдзіне верасьня суполка прапаноўвала памянёныя кнігі і 12 розных паштовак[29]. Трэці падручнік, "Гутаркі аб небе і зямлі", выйшаў на пачатку 1907 г.

Чарговым пунктам праграмы суполкі было выданьне твораў беларускай клясыкі XIX ст. (сэрыя "Народныя песьняры"). Гэтая праграма была апублікаваная 2 сьнежня 1906 г. у "Нашай Ніве", а на пачатку 1907 г. была троху пашыраная. Яна прадугледжвала выданьне па падпісцы твораў Багушэвіча: "Дудка беларуская", "Смык беларускі" і "Скрыпачка беларуская", дзьве першыя кнігі "Пана Тадэвуша" ў перакладзе Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча і ягоных арыгінальных твораў "Гапон", "Вечарніцы", "Шчароўскія дажынкі", "Стаўры–Гаўры" і "Купала". Выдавецтва ў 1906 г. абяцала скончыць сэрыю найпазьней да вясны 1908 г.[30]. Прычынаю такой пасьпешлівасьці мог быць меркаваны працяглы выезд Іваноўскага ў Мюнхэн: у тамтэйшым політэхнічным інстытуце ён рыхтаваўся да абароны доктарскай дысэртацыі, прысьвечанай вырошчваньню цукровага бурака ў Віленскай губэрні.

Аднак на гэты раз суполка пераацаніла свае выдавецкія магчымасьці, бо да сакавіка 1908 г. у гэтай сэрыі зьявіліся толькі 4 кнігі: "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" Багушэвіча, "Пан Тадэвуш" у перакладзе В. Дуніна–Марцінкевіча і ягоны "Гапон". Акрамя таго, калі меркаваць па абвестцы ў "Нашай Ніве" 11 сакавіка 1908 г., у лютым ці сакавіку таго году суполка выдала першы томік вершаў Янкі Купалы "Жалейка".

Абставінам выхаду першай кнігі будучага вялікага беларускага паэта гісторыкі прысьвяцілі шмат увагі. Антон Луцкевіч прыпісваў у гэтай справе вялікія заслугі кіраўніцтву "Нашай Нівы", зазначаючы, што "моцным імпульсам для яго (Купалы. — *Ю.Т.*) было выданьне ў Вільні ў канцы 1906 г. першых легальных беларускіх газэт — "Нашай Долі" і "Нашай Нівы". "Рэдакцыя, — пісаў А. Луцкевіч, — адразу ацаніла здольнасьці паэта і пачала зьмяшчаць на пачэсным месцы ягоныя творы"[31]. Насамрэч, аднак, у "Нашай Долі" не было надрукавана ніводнага твору Купалы, а першы ягоны верш — "Касцу" — "Наша Ніва" надрукавала толькі 11 траўня 1907 г. Тым часам ужо ў канцы 1906 г. рукапіс "Жалейкі" знаходзіўся ў выдавецтве "Загляне сонца...", куды яго пераслаў апякун маладога паэта менскі публіцыст Уладзімер Самойла[32]. Пра тое, што пецярбурская суполка высока ацаніла творчасьць Купалы, найлепш сьведчыць факт, што ўжо ў лістападзе 1906 г. яна паведаміла пра хуткае выданьне "Жалейкі", просячы адначасна дасылаць грошы на адрас Уладзіслава Сталыгвы[33].

Робячы стаўку на Пецярбург, а не на Вільню, Купала, безумоўна, разьлічваў, што такім чынам ён барджджэй дачакае асобнага кніжнага выданьня сваіх вершаў, што, відавочна, цаніў вышэй, чым іх публікацыю ў расьцярушаным газэтным выглядзе. І сапраўды, выданьне "Жалейкі" доўжылася каля 16 месяцаў, лічачы ад згаданай абвесткі, што і

[28] Гл. рэпрадукаваны ліст В. Іваноўскага да Ельскага ад 1 жніўня 1906 г.

[29] Наша Доля. 1906. 15 верасьня.

[30] Бурачок М. Дудка беларуская. Пецярбург, 1907. Абвестка суполкі на вокладцы.

[31] Навіна А. Адбітае жыцьцё. Вільня, 1929. С. 43.

[32] Пуцявінамі Янкі Купалы. Дакументы і матэрыялы. Мінск, 1981. С. 55.

[33] Наша Ніва. 1906. 24 лістапада.

на сёньняшнія меркі ня надта доўга. Да таго ж выдавецтва мела сваю ўласную праграму — выданьне беларускіх клясыкаў, да якіх Купала тады не належаў. Відавочна, аднак, ён не адзначаўся асаблівай сьціпласьцю і цярплівасьцю, пра што сьведчыць наступная вершаваная эпіграма, напісаная ў чаканьні "Жалейкі":

Горы абяцаці —
Ня споўніць крыхі —
Не сьвятыя лепяць
Гэтыя гаршкі.

Ёсьць у нас "суполка" —
Цешся, беларус,
Тваёй мовай кніжак
Надрукуе стус.

Ой, сьпяшыць суполка
Кніжкі выдаваць,
Хіба на тым сьвеце
Будзем іх чытаць[34].

Да вясны 1908 г. суполка "Загляне сонца..." выдала дзесяць кніг і паўтара дзясятка паштовак. Імкнучыся пашыраць сваю прапанову, суполка ўзяла на склад колькі ранейшых беларускіх пецярбурскіх выданьняў ("Вязанка" Я. Лучыны, "Казкі", "Кароткі катэхізм" Філяхоўскага), а таксама пару пазыцыў, выдадзеных "Нашай Нівай", і розныя беларусазнаўчыя працы на расейскай і польскай мовах, у тым ліку "Словарь белорусского наречия" І. Насовіча, "Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny" Я. Чачота, працы М. Доўнар–Запольскага, Я. Карскага і іншыя. Адначасова суполка арганізавала дыстрыбуцыйную сетку, уклаўшы дамовы з кнігарнямі. Увесну 1908 г. беларуская кніга была даступная ня толькі ў Пецярбургу, але ў колькіх віленскіх кнігарнях, у Менску, Віцебску, Горадні, Магілёве, Гомелі, Слоніме, а таксама ў варшаўскай кнігарні Габрыэля Цэнтэршвэра на Маршалкоўскай, 143[35].

Першы этап дзейнасьці суполкі вызначыла дамова, укладзеная паміж яе заснавальнікамі, якая дзеяла да канца 1908 г. Аднак фактычна гэты этап закончыўся ўжо ўвесну, што вынікае з факту, што з таго часу аж да восені 1909 г. суполка ня выдала ніводнай кнігі. На гэта паўплывалі дзьве акалічнасьці. Адной зь іх быў выезд Іваноўскага ў Мюнхэн, безь якога, як высьветлілася, астатнія сябры ўправы няшмат маглі зрабіць. Другою ж прычынай была пастанова Пецярбурскай судовай палаты, прынятая ўвосень 1908 г. пасьля звароту Віленскага камітэту па справах друку (цэнзуры), аб затрыманьні пераважнай непрададзенай часткі накладу твораў Багушэвіча "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" і пачатку сьледзтва для высьвятленьня вінаватых у выданьні гэтых "нядобранадзейных" твораў. На кароткі час пагроза канфіскацыі навісла таксама над "Жалейкай" Купалы[36].

Гэтыя здарэньні гнятліва паўплывалі на Шыпілу, які, зважаючы на сваё службовае становішча, стараўся ўнікаць сутыкненьняў з уладай. Істотную ролю пры гэтым адыгрывала тая акалічнасьць, што сядзіба суполкі знаходзілася ў ягонай кватэры, і ён пачуваўся асабліва адказным за яе дзейнасьць, хоць і ня быў яе кіраўніком. Ня выключана, што Шыпіла здагадваўся пра сувязі Іваноўскага зь нелегальным выдавецтвам "Грамада",

[34] Полымя. 1929. Сакавік. С. 86.
[35] Наша Ніва. 1908. 11 сакавіка.
[36] Александровіч С. Гісторыя... С. 177; Пуцявінамі Янкі Купалы... С. 59—69.

што павялічвала пачуцьцё небясьпекі[37]. Таму пасьля сканчэньня 31 сьнежня 1908 г. дзеяньня дагэтулешняй дамовы заснавальнікаў ён выйшаў з управы суполкі, параіўшы ёй пашукаць іншае памяшканьне. Пры адсутнасьці Іваноўскага справамі суполкі займаўся яе бухгальтар Антон Грыневіч, які ў другой палове 1908 г. жыў у яе памяшканьні, г.зн. у Шыпілы[38].

Канец крызіснай сытуацыі паклала новая дамова сяброў–заснавальнікаў, укладзеная ў Пецярбургу 30 красавіка 1909 г., згодна зь якой аднаўлялася дзейнасьць выдавецкага таварыства “Загляне сонца...”. З ранейшага складу ўправы выбылі Шыпіла і Уладзіслаў Калашэўскі, засталіся Вацлаў і Юры Іваноўскія, Сталыгва і Валейка. Акрамя таго, далучыліся новыя сябры: Сабіна Іваноўская (жонка Вацлава), адзін з старэйшых беларускіх дзеячоў у Пецярбургу інжынэр–тэхноляг Антон Неканда–Трэпка разам з жонкай Юліяй, Антон Грыневіч і Генрык Ражноўскі. Паводле палажэньняў новай дамовы, кіраўніком выдавецтва надалей застаўся Вацлаў Іваноўскі, а ягоны брат стаў адказным рэдактарам. Адначасна быў заяўлены новы адрас суполкі, якая цяпер разьмяшчалася ў зьнятай кватэры на Васільеўскім востраве, 6 лінія, 1, кв. 20[39].

Шмат сьведчыць пра тое, што гэты другі склад сяброў суполкі быў падабраны з увагі на фінансавыя патрэбы. Новыя сябры зрабілі значна большыя ўнёскі. Мабыць, павялічылі свае ўнёскі і дагэтулешнія сябры. Сукупны аб’ём унёскаў сяброў–заснавальнікаў, які ў 1906—1908 г. павялічыўся толькі з 220 да 315 рублёў, 1 красавіка 1910 г. склаў 800 руб., доля акцыянэраў склала 750 руб., а ўсе актывы суполкі сягнулі 4070 руб.[40]. Паляпшэньне эканамічнай сытуацыі стварала магчымасьць пашырэньня выдавецкай дзейнасьці, аднак яе выкарыстаньне залежала ад вырашэньня кадравых цяжкасьцяў. Функцыя Юр’я Іваноўскага як адказнага рэдактара ад пачатку была фікцыйная, да таго ж у 1910 г. ён зьехаў на некалькі гадоў зь Пецярбургу ў Маскву. Увосень таго ж году, скончыўшы Горны інстытут, зь Пецярбургу зьехаў Валейка, а ўсьлед за ім Сталыгва[41]. Аднак абнадзейваў Грыневіч, які праяўляў як творчыя зацікаўленьні, гэтак і выдавецкія амбіцыі[42]. Таму Іваноўскі ў 1909 г. пасяліў яго ў новым памяшканьні выдавецтва і даверыў яму на летні час выконваць абавязкі яго кіраўніка[43].

У канцы 1909 г. Іваноўскі запрасіў у Пецярбург Купалу, які з восені 1908 г. жыў у Вільні, дзе працаваў у бібліятэцы “Знание” Барыса Даніловіча і супрацоўнічаў з рэдакцыяй “Нашай Нівы”. Гэтае запрашэньне адлюстроўвала як інтарэсы выдавецтва “Загляне сонца...” (мелася ўзмацніць яго рэдакцыйныя сілы), гэтак і асабісты інтарэс паэта, які такім чынам здабываў магчымасьць паглыбленьня свае адукацыі, творчага разьвіцьця і, галоўнае, — беспасярэдняга ўдзелу ў выданьні сваіх чарговых твораў. 4 сьнежня 1909 г. Купала ўжо быў прапісаны ў памяшканьні суполкі на 6–й лініі, дом 1, дзе на працягу некалькіх месяцаў жыў разам з Грыневічам і толькі ў чэрвені 1910 г. стаў кутнікам

[37] Выдавецтва “Грамада” выдала ў Пецярбургу прынамсі чатыры брашуры: І.Сігов (I.Sihow) Што такое свабода? 1906; Чы будзе для ўсіх зямлі? 1906; Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць. 1907; Забастоўка. 1907. Як назва выдавецтва, так і памянёныя агітацыйныя брашуры паказваюць, што яго дзейнасьцю кіравала Беларуская сацыялістычная грамада.

[38] Весь Петербург на 1909 г.

[39] Наша Ніва. 1909. 22 лістапада.

[40] Маладая Беларусь. 1912. Сш. 1. С. 153; Александровіч С. Гісторыя... С. 178.

[41] Як сьведчаць асабістыя дакумэнты В. Валейкі, якімі валодае ягоная сям’я ў Варшаве, 15 лістапада 1910 г. ён пачаў працаваць горным інжынэрам у Шчарбінаўскай шахце ў Данбасе. Паводле інфармацыі Людвікі Войцік (Зоські Верас) зь Вільні, Сталыгва ўжо ў 1912 г. жыў у Варшаве і належаў да мясцовага беларускага гуртка.

[42] Былі гэта досыць незвычайныя амбіцыі. Пра гэта сьведчыць выдадзеная ў 1909 г. у Вільні “кніга” А. Грыневіча “Як бараніцца ад халеры”, якая налічвала цэлыя... 2 старонкі.

[43] Александровіч С. Гісторыя... С. 179; Весь Петербург на 1910 г.

Шыпілы[44]. У асобе Купалы суполка здабыла каштоўнага супрацоўніка, прычым карысьць ад гэтага супрацоўніцтва была ўзаемная — тут, у Пецярбургу, выйшла шэсьць першых кніг Купалы: “Жалейка”, “Адвечная песьня”, “Гусьляр”, “Сон на кургане”, “Паўлінка” і “Шляхам жыцьця”. Гэтае дасягненьне далёка выходзіла за асабістыя матывацыі, бо мела непераўзыходнае значэньне для беларускай літаратуры.

Значэньне Купалы як рэдакцыйнага супрацоўніка зьвязана і зь нечаканаю адмоваю Грыневіча ўдзельнічаць у суполцы і пачаткам ягонай самастойнай выдавецкай дзейнасьці ў Пецярбургу. Згодна з дасьледаваньнямі Сьцяпана Александровіча, гэты “разрыў” адбыўся ўвосень 1910 г., аднак дасьледнік не правёў аналізу яго прычынаў[45]. Між тым гэтая падзея выглядае настолькі дзіўнай, што патрабуе тлумачэньня — з аднаго боку, удзел у “Загляне сонца...” ня толькі не перашкаджаў Грыневічу рэалізаваць свае выдавецкія задумы, але значна іх палягчаў, а з другога — цяжка дапусьціць, каб адасабленьне Грыневіча было наступствам асабістых канфліктаў з Іваноўскім.

Думаецца, прычына гэтага дзіўнага адыходу Грыневіча вынікала з тагачаснай пазыцыі суполкі. Нягледзячы на спазьненьні ў ажыцьцяўленьні выдавецкай праграмы, ужо ў 1909—1910 г. суполка набыла вялікую папулярнасьць і ўзбуджала спадзяваньні аўтараў на выданьне сваіх твораў. Праўда, былі спробы заснаваць іншыя выдавецкія таварыствы, аднак яны былі або безвыніковыя (таварыствы “Мінчук” у Менску і “Палачанін” у Вільні), або апынаціся ў цяжкіх матэрыяльных умовах і дзеля гэтага мелі невялікія магчымасьці (“Наша Ніва” ці віленская суполка “Наша Хата”). На гэтым фоне пецярбурская суполка выглядала салідна і спадзеўна, у сувязі з чым да яе сьцякаліся адносна шматлікія выдавецкія прапановы. На яе разьлічвалі ня толькі Купала і Грыневіч, але таксама Якуб Колас, Напалеон Чарноцкі, Вацлаў Ластоўскі ды іншыя. Рамуальду Зямкевічу паабяцалі выдаць ягоныя гісторыю беларускай літаратуры і слоўнік[46], а іншаму (невядомаму) аўтару — працы пра лубін і сэрадэлю[47]. У такой сытуацыі выданьне за кароткі час шасьці Купалавых кніг аўтары, што стаялі ў чарзе, маглі расцэньваць як выкарыстаньне магчымасьцяў суполкі дзеля асабістых мэтаў ейных супрацоўнікаў. Такіх пагалосак Іваноўскі спрабаваў унікаць, у сувязі з чым нават уласныя творы імкнуўся выдаваць не ў Пецярбургу, а ў Вільні і пад рознымі псэўданімамі[48].

Таму асобнае выдавецтва Грыневіча не было канкурэнтным прадпрыемствам, але асабліваю формай супрацоўніцтва, разьлічанай на павелічэньне публікацыяў, каб пры гэтым ня мець непажаданых закідаў. Пра гэта, у прыватнасьці, сьведчыць гісторыя выданьня зборніка вершаў Купалы “Гусьляр”. Выдаць яго спачатку плянавала суполка “Загляне сонца...”, на што паказвае інфармацыя, зьмешчаная на вокладцы выдадзенай ёй у 1910 г. кніжкі Дуніна–Марцінкевіча “Шчароўскія дажынкі”, якая абвяшчала, што “Гусьляр” выйдзе неўзабаве. Аднак, абдумаўшы справу, заканчэньне рэалізацыі гэтага

---

[44] Пра тое, што, прыбыўшы ў Пецярбург, Купала жыў у памяшканьні суполкі, а не ў Шыпілы, сьведчаць даты прапісак у ягоным пашпарце, апублікаваныя ў кн. “Пуцявінамі Янкі Купалы” (Мінск, 1981. С. 48—49). Пра запрашэньне Купалы Іваноўскім гл. таксама ліст У. Самойлы да Шыпілы ад 2 сьнежня 1909 г. і інфармацыю Ф. Умястоўскага: Беларускі Дзень. 1928. № 6(46). С. 7.

[45] Александровіч С. Гісторыя... С. 184.

[46] Ліст Р. Зямкевіча да Ельскага ад 21.03.1909. AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_2$.

[47] Ажэшка Э. Хам (Мужык). Пецярбург, 1912. Інфармацыя суполкі на вокладцы.

[48] Гэта былі: арыгінальная праца В. Іваноўскага, выдадзеная пад псэўданімам Вацюк Тройца, “Цукар. З гутарак зь Дзядзькам Сымонам” (Вільня, 1908), а таксама яго пераклады папулярных брашур А. Семпалоўскага “Гутаркі аб гаспадарцы” і Дулебы К. [Дулембы К. — *Рэд.*] “Як ратаваць уздутую жывёлу”, абедзьве выдадзеныя ў Вільні ў 1909 пад псэўданімамі перакладніка Антось Асіна і Антось Хатні. Усе тры працы былі раней апублікаваныя ў “Нашай Ніве”.

праекту перадалі Грыневічу, у выдавецтве якога ў канцы 1910 г. урэшце і выйшла кніга. Раней ён выдаў "Адвечную песьню" Купалы і "Беларускія песьні з нотамі" (Т. 1) ува ўласнай апрацоўцы. Пра добрыя дачыненьні і супрацоўніцтва паміж абодвума выдавецтвамі сьведчыць таксама факт, што выдадзеныя Грыневічам кнігі суполка "Загляне сонца..." прымала на свой склад і прапаноўвала разам з уласнымі выданьнямі. Ня выключана, што яна "паціху" пакрывала частку выдаткаў на іх.

Другі этап дзейнасьці суполкі "Загляне сонца..." пачаўся з выданьня ў жніўні ці верасьні 1909 г. чарговай кнігі Дуніна–Марцінкевіча "Вечарніцы". Амаль адначасова ў Вільні пад маркаю "Загляне сонца..." выйшла кніга К. Дулебы "Як ратаваць уздутую жывёлу" (кірыліцай і лацінкай) у перакладзе Іваноўскага, а ў студзені 1910 г. падручнік Якуба Коласа "Другое чытаньне для дзяцей беларусаў", выдадзены разам зь віленскім таварыствам "Наша Хата". У сярэдзіне таго году выйшлі з друку адным томам два наступныя творы Дуніна–Марцінкевіча "Шчароўскія дажынкі" і "Купала" з прадмоваю — вялікім артыкулам Іваноўскага "Вінцук Дунін–Марцінкевіч і яго жыцьцё". Гэта была адна зь першых спробаў паказу складанай фігуры гэтага пісьменьніка XIX ст. і ацэнкі ягонага значэньня для беларускай літаратуры. Выхадам гэтай кнігі сэрыя "Народныя песьняры" была закончаная. Урэшце, у лістападзе 1910 г. пасьля працяглых захадаў суполкі, якія пацягнулі значныя выдаткі, пецярбурская Судовая палата скасавала рашэньне пра канфіскацыю кніг Багушэвіча "Дудка беларуская" і "Смык беларускі"[49]. Нягледзячы на гэта, суполка не наважылася выдаць ягоную трэцюю кнігу "Скрыпачка беларуская", што прадугледжвалася ў 1906 г.[50].

Апрача гэтага, у 1910—1912 г. пецярбурская суполка літаграфічным спосабам і накладам 200 або 400 асобнікаў выдала рэпэртуарную сэрыю з сцэнічных твораў. Гэта было як крокам насустрач патрэбам узьнікаючых беларускіх аматарскіх тэатральных трупаў, так і інсьпірацыяй і дапамогай тэатральнаму руху. У сэрыі выйшлі наступныя камэдыі: "Модны шляхцюк" Каруся Каганца (1910), "Сватаньне" Антона Чэхава ў перакладзе Напалеона Чарноцкага (1910), "Пашыліся ў дурні" (1910) і "Па рэвізіі" (1911) Маркі Крапіўніцкага, абедзьве ў апрацоўцы Чарноцкага, і "Міхалка", нібыта перапрацоўка польскай камэдыі, выкананая, як пададзена на тытульнай старонцы, Далецкімі (1911)[51]. Акрамя таго, суполка выдала два драматычныя творы Элізы Ажэшкі — "У зімовы вечар" (1910, пераклад Власта — Вацлава Ластоўскага) і "Хам" (1912), і камэдыю Купалы "Паўлінка" (студзень 1913 г.).

У 1911 г. выйшлі яшчэ два выданьні: невялікае апавяданьне А. Новіча "У дому лепей" і адносна вялікі дапаможнік для пчаляроў Генрыка Бярозкі "Пчаліна — жывёлка малая, а карысьці дае многа". Як сьцьвярджае Ян Станкевіч, псэўданім "Бярозка " належаў ксяндзу Генрыку Бэту — прафэсару духоўнай сэмінарыі ў Сейнах[52].

Такім чынам, пасьля шматмесячнага застою зь вясны 1909 г. дзейнасьць суполкі разьвівалася вельмі пасьпяхова. Разам з узрастаючай колькасьцю выдаваных кніжак павялічыўся іх продаж, які нарэшце пачаў прыносіць прыбытак. Гэта ўмагчыміла рост актываў суполкі. Калі 1 красавіка 1910 г. яны складалі 4070 рублёў, то на працягу наступных 15 з паловай месяцаў яны ўзрасьлі на 50% і 15 верасьня 1911 г. дасягнулі амаль 6000 руб. Асабліва моцна ўзрос у той час аб'ём унёскаў сяброў–заснавальнікаў, якія дасягнуў 1500 руб.[53]. Здаровае фінансавае становішча дазволіла суполцы ня толькі пакрываць уласныя выдаткі (на друк, памяшканьне, склад, рэкляму і інш.), але і дафінанса-

[49] Александровіч С. Гісторыя... С. 182.

[50] Дунін–Марцінкевіч В. Шчароўскія дажынкі. Купала. Пецярбург, 1910. Інфармацыя суполкі на вокладцы.

[51] "Далецкія" быў псэўданім В. Іваноўскага. Гл.: Seduro V. The Byelorussian Theatre and Drama. New York, 1955. P. 432.

[52] Станкевіч Я. З гісторыі Беларусі. Мюнхэн, 1958. С. 71.

[53] Маладая Беларусь. 1912. Сш. 1. С. 153.

ваць выданьне календара “Нашае Нівы” на 1911 г.[54]. З гэтага гледзішча суполка “Загляне сонца...” ня мела аналёгіі сярод іншых тагачасных беларускіх выдавецтваў. Дзеля гэтага цяжка пагадзіцца з ацэнкай Рыгора Семашкевіча, што яна была вельмі беднай арганізацыяй[55].

Рацыянальная і пасьлядоўная дзейнасьць суполкі давала таксама менш адчувальную, але надзвычай важную для беларускай літаратуры карысьць — уплывала на яе папулярызацыю, пабуджала да творчай актыўнасьці маладых празаікаў і паэтаў. У 1911 г. у выдавецкім партфэлі чакалі свайго часу ня толькі чарговыя творы Цёткі, Купалы і Коласа, але і новых аўтараў — Зьмітрака Бядулі, Канстанцыі Буйлы, Тодара Чарнышэвіча, Цішкі Гартнага, Алеся Гурла, Янкі Журбы ды іншых. Усё гэта паўплывала на пазыцыю Шыпілы, які аднавіў супрацу з суполкаю, хаця гэтым разам у неафіцыйнай форме. Загэтым, не бяз гонару за ўласныя дасягненьні, суполка скончыла фінансавую справаздачу на 15 лістапада 1911 г. словамі:

> Пасылаючы гэты наш атчот вельміпаважаным нашым Сябруком, Супольнікам і Дабрадзеём — урад Суполкі ад усяго сэрца дзякуе за прыхільные рады, працу і помач Суполцэ і з ясным вокам пaглядае на прышласьць, веруючы, што і далей не будзець недастатку ў чыстых, шчырых і прыязных беларускіх сэрцах[56].

Гэту сьвятлейшую прышласьць кіраўніцтва суполкі бачыла ня толькі ў пашырэньні кнігавыданьня, але і ў стварэньні першага беларускага часопіса. Сапраўды, да вясны 1912 г., калі ў Вільні пачаў выходзіць сельскагаспадарчы месячнік “Саха”, адзіным беларускім пэрыядычным выданьнем была “Наша Ніва”, якая з гэтай прычыны займалася ўсімі галінамі жыцьця — ад вялікай палітыкі да гаспадарчых парадаў, бо мусіла ўлічваць інтарэсы разнародных катэгорыяў чытачоў. Пецярбурская суполка сапраўды ўважала мэтазгодным выдаваць спэцыяльны месячнік для інтэлігенцыі, аднак рэальна ацэньвала ўсё яшчэ недастатковыя магчымасьці публіцыстаў і таму не наважвалася на выдаваньне месячніка. Замест яго ў канцы 1911 г. распачалася падрыхтоўка да выданьня рэгулярнага альманаха пад назвай “Маладая Беларусь”. Ён ня меў пэўнай пэрыядычнасьці, аднак выходзіў прыблізна штопаўгоду. Нягледзячы на гэта, “Маладая Беларусь” мела рысы часопіса, на што паказвае нумарацыя, разьмяшчэньне матэрыялаў, рэцэнзіі, абвесткі, бягучая інфармацыя. Усяго выйшлі тры сшыткі: першы — у траўні 1912 г., наступныя — у канцы 1912 г. і ў сярэдзіне 1913 г. Кожны налічваў каля 160 старонак вялікага фармату.

Тэматычны профіль альманаха меўся ахопліваць тры наступныя аддзелы: актуальныя пытаньні грамадзкага жыцьця на Беларусі, навуковыя працы, прысьвечаныя Беларусі, а таксама аддзел літаратуры і мастацтва[57]. На практыцы, аднак, пераважалі творы Купалы, Коласа, Цёткі, Бядулі, Гартнага, Гурла, Буйлы, Чарнышэвіча, Новіча, Журбы і Петрашкевіча. Напрыклад, паэма Купалы “Сон на кургане” займала больш чым палову першага сшытку альманаха. Навукова–папулярную тэматыку прадстаўлялі пераважна артыкулы А. Навіны (Антона Луцкевіча), адзін зь якіх — “На дарозе да новага жыцьця” — суполка выдала асобнаю брашурай. На старонках “Маладой Беларусі” выступіў таксама прафэсар Аляксандар Пагодзін з артыкулам, прысьвечаным беларускай моладзі, а А. Янулайціс апублікаваў матэрыял пра паэта Паўлюка Багрыма, які жыў у Крошыне ў XIX ст.

Можна дапусьціць, што і мэта, і назва альманаха — “Маладая Беларусь”, — і ягоны

---

[54] Тамсама, с. 155.

[55] Семашкевіч Р. Беларускі літаратурна–грамадскі рух у Пецярбурзе. Мінск, 1971. С. 118.

[56] Маладая Беларусь. 1912. Сш. 1. С. 55.

[57] Тамсама, с. 4.

тэматычны профіль былі зьвязаны з стварэньнем пры Пецярбурскім унівэрсытэце студэнцкага Беларускага літаратурна–навуковага гуртка. Ягоным ініцыятарам быў Яўген Хлябцэвіч, які неўзабаве пасьля паступленьня ўва ўнівэрсытэт у лютым 1909 г. наладзіў сувязі зь дзеячамі суполкі “Загляне сонца...”[58]. Пра гэта сьведчыць яго інфармацыя пад псэўданімам Халімон, зьмешчаная ў пецярбурскай газэце “Русь”, у якой ён падаў мэты суполкі і горача заклікаў чытачоў падтрымаць яе дзейнасьць[59]. Зь цягам часу вакол суполкі гуртавалася ўсё больш беларускай студэнцкай моладзі, для якой яна стала першаю школай нацыянальнай культурнай і грамадзкай працы. На частых сустрэчах–“суботніках” у кватэрах Іваноўскага і Шыпілы моладзь заахвочвалася да вывучэньня айчыннай гісторыі, мовазнаўства, літаратуры ды іншых галінаў беларусазнаўства[60]. Акурат у гэтым трэба шукаць крыніцу зацікаўленьня студэнта Браніслава Тарашкевіча стварэньнем беларускай граматыкі; там — на “суботніках” — фармаваліся погляды многіх іншых студэнтаў, якія за колькі гадоў далі плён у выглядзе навуковай, культурнай і грамадзка–палітычнай дзейнасьці.

Таму, калі 30 студзеня 1912 г. Рада прафэсараў унівэрсытэту зацьвердзіла статут Беларускага літаратурна–навуковага гуртка, ягоныя сябры ўжо ў вялікай меры ўсьведамлялі мэты і кірункі свае будучае навуковае працы. Гэтым яны былі абавязаныя Іваноўскаму і Шыпілу, якія абодва з гэтай прычыны былі запрошаныя на інаўгурацыйны сход сяброў гуртка. Як паказвае справаздача Пецярбурскага ўнівэрсытэту за 1912 г., Іваноўскі прывітаў стварэньне гуртка як нараджэньне “Маладой Беларусі” і прысьвяціў свой выступ важнай праблеме навуковых дасьледаваньняў духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народу[61]. Апублікаваць вынікі гэтых дасьледаваньняў разьлічвала рэдакцыя альманаха “Маладая Беларусь”.

Аднак неўзабаве ў становішчы суполкі адбыліся важныя зьмены, якія перадвызначылі лёс часопіса і ўсёй выдавецкай дзейнасьці ў Пецярбургу. Іх абумовіў выезд у чэрвені 1913 г. Іваноўскага і Купалы ў Вільню. Бесьпярэчна, гэта было нялёгкае рашэньне: для суполкі яно азначала страту дасьведчанага кіраўніка, а для Іваноўскага — адмову ад навуковай кар’еры ў Пецярбургу[62]. Такое рашэньне было прадыктаванае перадусім патрэбамі беларускага руху, паколькі Вільня давала большыя магчымасьці для дзейнасьці на яго карысьць. Тут стварыўся дынамічны асяродак руху, пачалі ўзьнікаць новыя пэрыядычныя выданьні і грамадзка–культурныя арганізацыі, урэшце, адсюль лягчэй было разьвіваць дзейнасьць у краі. Перад гэтым ад’ездам увесну 1913 г. суполка выдала ў Пецярбургу найлепшы твор Купалы — “Шляхам жыцьця”.

[58] Я. Хлябцэвіч быў першым супрацоўнікам суполкі “Загляне сонца...” у асяродзьдзі моладзі, якая навучалася ў пецярбурскіх ВНУ. Ён адыграў вялікую ролю ў грамадзка–культурнай дзейнасьці гэтай моладзі. Падрабязны аналіз яго постаці зьмешчаны ў магістарскай працы Марыі Базылюк, напісанай у 1986 г. на катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту.

[59] Русь. 1907. 5 ноября. № 296 (приложение). Факт, што газэта “Русь” прапанавала свае старонкі для прапагандаваньня мэтаў суполкі, сьведчыць аб аднабаковасьці тых дасьледнікаў, якія ацэньвалі стаўленьне расейскай прэсы да моладабеларускага руху выключна праз прызму чарнасоценных выданьняў “Окраины России”, “Минское слово” і інш.

[60] Навіна А. Роля моладзі ў пачатках адраджэнскага руху // Родныя гоні. 1927. № 5. С. 23; яго ж. Адбітае жыцьцё... С. 44. Пра “суботнікі” ў Іваноўскага і Шыпілы пісаў і Б. Тарашкевіч у сваёй аўтабіяграфіі 1933 г., якая знаходзіцца ў Архіве гісторыі партыі пры ЦК КПСС у Маскве. Дзякую спадарыні Аляксандры Бэргман за магчымасьць азнаёміцца з адпаведным фрагмэнтам аўтабіяграфіі.

[61] Отчет о состоянии и деятельности императорского С.–Петербургского университета за 1912 г. СПб., 1913. Приложение. С. 92, 106.

[62] У апошнія гады жыцьця ў Пецярбургу Іваноўскі быў дацэнтам Тэхналягічнага інстытуту, выкладнікам у жаночым політэхнічным інстытуце, кансультантам у міністэрстве сельскай гаспадаркі, выдаў таксама шэраг навуковых працаў што да перапрацоўкі прадукцыі сельскай гаспадаркі. Гл.: Politechnika Warszawska 1915—1925. Księga pamiątkowa / red. Prof. L. Staniewicza. Warszawa, 1925. S. 430—432.

Ад'езд Іваноўскага і Купалы ў Вільню запачаткаваў трэці і адначасна апошні этап дзейнасьці суполкі "Загляне сонца...". 1 чэрвеня 1913 г. адбылася рэарганізацыя яе ўправы, у якую вярнуўся Шыпіла, а таксама ўвайшлі доктар мэдыцыны Аляксандар Ярэміч і студэнт Язэп Сушынскі[63]. Выглядае, гэтая зьмена не была для суполкі нечаканаю, на што паказвае факт, што пасьля колькігадовага перабываньня ў арандаваным памяшканьні на 1–й лініі і ў кватэры Іваноўскага на вул. Вярэйскай, 37, ужо ў траўні 1912 г. яна зноў месьцілася на кватэры Шыпілы на 4–й лініі[64]. Ярэміч таксама ня быў новаю фігурай ува ўправе суполкі: Купала прысьвяціў яму кнігу "Шляхам жыцьця", што дазваляе меркаваць, што ён спрычыніўся да яе выданьня.

Новае кіраўніцтва суполкі было рашуча настроенае працягваць выдавецкую дзейнасьць. 7 чэрвеня 1913 г. яно абвясьціла ў "Нашай Ніве" конкурс на новыя драматычныя творы. Увесну і ўлетку 1914 г. суполка давала шматлікія абвесткі, у якіх інфармавала аб сваіх намерах выдаваць навуковую літаратуру, бэлетрыстыку і інш., а таксама аб падрыхтоўцы чарговага, чацьвертага, сшытку "Маладой Беларусі". У сувязі з гэтым яна зьвярталася да аўтараў з прапановаю прысылаць для публікацыі рукапісы, імкнулася прыдбаць новых сяброў і супольнікаў, унёскі якіх (у памеры 50 і 10 руб.) былі пакліканыя паправіць фінансавую сытуацыю выдавецтва[65].

Аднак у новых арганізацыйных умовах магчымасьць ажыцьцяўленьня гэтых праектаў была вельмі абмежаваная. У другой палове 1913 г. суполка выдала літаграфічным спосабам дзьве чарговыя камэдыі: "Мядзьведзь" Чэхава і "Як яны жаніліся" А. Валодзьскага ў перакладзе Ластоўскага. Адначасна выйшлі друкам чатыры выданьні — "Батрак" Коласа, "Абразкі" Бядулі, "Песьні" Гартнага і "Амэрыканец" Новіча[66]. Аднак гэтыя творы ўжо былі надрукаваныя ў другім і трэцім сшытках "Маладой Беларусі" і гэтым разам выдадзеныя як асобныя адбіткі ў выглядзе кніжак. Нарэшце, прыкладна ў сярэдзіне 1914 г. была перавыдадзеная, гэтым разам у няпоўным выглядзе, "Дудка беларуская" Багушэвіча[67]. Гэта было апошняе выданьне суполкі. Нягледзячы на амбітныя задумы, дзейнасьць суполкі на гэтым апошнім этапе ў сутнасьці абмежавалася заканчэньнем распачатых праектаў і выданьнем у форме кніжак раней апублікаваных тэкстаў.

Гісторыкі беларускай літаратуры сьцьвярджаюць, што дзейнасьць суполкі "Загляне сонца..." перапыніла першая сусьветная вайна. Насамрэч гэта ня быў найважнейшы чыньнік, асабліва ў аддаленым ад лініі фронту Пецярбургу. Як паказваюць пададзеныя акалічнасьці хады падзеяў, новае кіраўніцтва суполкі ўжо зь сярэдзіны 1913 г. не было ў стане самастойна ажыцьцяўляць новыя выдавецкія ініцыятывы. У прыватнасьці, яно ня здолела здабыць неабходных фінансавых сродкаў для далейшага разьвіцьця дзейнасьці, а таксама прыцягнуць новых аўтараў і рэдакцыйных супрацоўнікаў, безь якіх Шыпіла — дзеля сваёй пэдагагічнай нагрузкі — няшмат мог зрабіць[68].

[63] Александровіч С. Гісторыя... С. 179.

[64] Пра сядзібу суполкі на вуліцы Вярэйскай інфармавала "Наша Ніва" (1911. 3 лістапада і 22 сьнежня), а таксама зборнік "Нашай Нівы" (№ 2, Вільня 1912) — абвестка на вокладцы. Зьвесткі аб вяртаньні суполкі ў кватэру Шыпілы былі зьмешчаныя ў альманаху "Маладая Беларусь" (1912. Сш. 1), які выйшаў у траўні таго ж году. Гл. рэцэнзію, зьмешчаную ў "Нашай Ніве" (ад 7 чэрвеня 1912).

[65] Гэтыя абвесткі зьмяшчаліся на вокладках кніжак, выдадзеных у 1914 г. Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні (у тым ліку: Буйло К. "Курганная кветка"; Ядвігін Ш. "Васількі").

[66] Першая абвестка аб публікацыі гэтых кніжак зьявілася ў "Нашай Ніве" 12 сьнежня 1913.

[67] Наша Ніва. 1914. 28 жніўня.

[68] У 1905—1913 г. Б. Шыпіла працаваў ува ўнівэрсытэцкай бібліятэцы, Рыма–каталіцкай духоўнай акадэміі, мужчынскай гімназіі пры касьцёле сьв. Кацярыны і на агульнаадукацыйных курсах Чарняева. Апрача гэтага, у 1914 г. распачаў працу ў Магілянскай жаночай гімназіі. Гл.: "Весь Петербург..." за 1905—1915 гады.

Аднак абмежаваныя магчымасьці новага кіраўніцтва не былі адзінай прычынай занyпаду суполкі "Загляне сонца...". Як засьведчылі падзеі, якія разгарнуліся неўзабаве, Іваноўскі, пакідаючы Пецярбург, зусім ня меў намеру адмаўляцца ад выдавецкай дзейнасьці, але лічыў больш карысным весьці яе ў Вільні. 1 ліпеня 1913 г. у Вільні было заснаванае Беларускае выдавецкае таварыства (далей — БВТ), старшынём якога стаў Іваноўскі, а сакратаром — Купала[69]. БВТ разьмясьцілася на кватэры Іваноўскага па вул. Каштанавай, д. 5, кв. 4 (цяпер *Angariečio*), дзе пасяліўся і Купала. Акрамя памяшканьня, Іваноўскі перадаў у распараджэньне новага выдавецтва значны грашовы ўнёсак, які забраў зь пецярбурскай суполкі. Гэта стварыла добрую базу для дзейнасьці БВТ, пра што сьведчыць факт, што за месяц ад заснаваньня яно было ў стане выдаткаваць 3000 руб. на куплю ўсіх выдадзеных "Нашаю Нівай" кніг і календароў, якія заставаліся на складзе[70]. Магчыма, немалыя грашовыя сродкі БВТ атрымлівала і ад княгіні Магдалены Радзівіліхі[71].

У такіх умовах БВТ распачало жвавую дзейнасьць у беспрэцэдэнтным для дагэтулешняга беларускага выдавецкага руху маштабе. За кароткі час да наступу нямецкага войска і эвакуацыі Іваноўскага і Купалы ў Арол яно пасьпела выдаць 14 кніг сукупным накладам каля 45 тыс. асобнікаў[72]. Апрача гэтага, БВТ удзельнічала ў выданьні некалькіх кніг, дзе ня быў пазначаны выдавец[73]. Гэты вынік, які перавышаў наклад 50 тыс. асобнікаў, адпавядаў прыкладна палове прадукцыі выдавецкай суполкі "Загляне сонца..." за 8 гадоў яе дзейнасьці. Трэба сказаць, што БВТ да вайны было адзіным беларускім выдавецтвам, якое плаціла аўтарскія ганарары[74], што павышала ягоны прэстыж і прыцягвала супрацоўнікаў. Імкнучыся палепшыць распаўсюджаньне кніг, БВТ удзельнічала ў заснаваньні ўвосень 1913 г. першай беларускай кнігарні Вацлава Ластоўскага ў Вільні на вул. Завальнай, 7, спрычынілася да разьвіцьця кнігагандлёвай сеткі на ўсёй Беларусі[75].

Пры такой дынамічнай дзейнасьці БВТ пецярбурская суполка "Загляне сонца..." ужо ня мела вялікіх шанцаў на разьвіцьцё. Гэта пацьвярджае погляд, што яе роля фактычна скончылася ў сярэдзіне 1913 г. разам з ад'ездам Іваноўскага і Купалы. Гэтую ролю ня здолелі вярнуць амбітныя пляны новага кіраўніцтва. Аднак у сутнасьці замёрла дзейнасьць прадпрыемства "Загляне сонца...", але не выдавецкай дзейнасьці, якая эфэктыўна разьвівалася ў новай форме.

---

[69] Аб гэтым сьведчыць ліст Купалы да Тарашкевіча (ад 4 верасьня 1913), апублікаваны В. Рагойшам у зб.: Народныя песняры. Зборнік артыкулаў. Мінск, 1972. С. 254.

[70] Александровіч С. Гісторыя... С. 199.

[71] На пяцёх кнігах, выдадзеных БВТ у Вільні ў 1914 г. (а менавіта: "Родныя зьявы" Коласа, "Рунь" Гарэцкага, "Курганная кветка" Буйлы, "Якім Бяздольны" [П.] Беларуса і "Васількі" Ядвігіна Ш.) фігураваў радавы герб княгіні Магдалены Радзівіліхі — лебедзь на хвалях. Александровіч вызначыў яго як "exlibris" гэтага выдавецтва (гл.: яго ж. Пуцявіны роднага слова... С. 156). У сутнасьці гэта быў не "exlibris", а выраз фінансавай дапамогі княгіні ў выданьні вышэйпамянёных кніг. Гэты герб быў таксама зьмешчаны на кнізе М. Багдановіча "Вянок", выдадзенай Вацлавам Іваноўскім і Іванам Луцкевічам у Вільні пад канец 1913 г.; гэтую цікавую драбніцу вытлумачыў В. Ластоўскі (яго ж. Мае ўспаміны аб М. Багдановічу // Крывіч. 1926. № 1 (11). С. 66.).

[72] Бібіла Ю. Паасобныя выданьні на беларускай мове (1835—1916) // Летапіс беларускага друку. Ч. II. Менск, 1929.

[73] Сярод іх трэба згадаць "Вянок" М. Багдановіча, выдадзены ў Вільні (на мяжы 1913—1914 г. накладам 2000 экз.), а таксама "Велікодную пісанку" — у 1914 г. накладам 3000 асобнікаў (у гэтым апошнім пытаньні гл.: Наша Ніва. 1914. 8 траўня).

[74] Александровіч С. Пуцявіны... С. 147.

[75] Ліст В. Ластоўскага да Людвікі Сівіцкай ад 1 сьнежня 1913 г. Асабісты архіў Людвікі Войцік у Вільні; Наша Ніва. 1913. 4 лістапада — 12 сьнежня.

Як паказвае прыведзеная ніжэй зводная табліца, суполка “Загляне сонца...” выдала 38 кніг (лічачы выданьні кірыліцай і лацінкай як асобныя пазыцыі) сукупным накладам, паводле падлікаў Сьцяпана Александровіча, больш як 100 тыс.[76]. Акрамя таго, яна выдала больш як 20 розных паштовак з партрэтамі старадаўніх паэтаў і іншых дзяячоў культуры, гістарычнымі помнікамі, краявідамі і г.д. Суполка выцягнула з забыцьця і пашырыла найлепшыя творы беларускай літаратуры XIX ст., выдала першыя беларускія падручнікі, сэрыю сцэнічных твораў, дапаможнікі для гаспадароў, заахвочвала да творчасьці маладых аўтараў і тым самым выдатна спрычынялася да фармаваньня новай беларускай літаратуры. Больш за тое, суполка адначасна выпрацоўвала прынцыпы правапісу беларускай мовы, прынятыя пазьней астатнімі выдаўцамі.

Вынікі дзейнасьці суполкі мелі першараднае і бесьпярэчнае значэньне для разьвіцьця беларускай культуры. Аднак поўная ацэнка іх значэньня павінна ўлічваць перадусім піянэрскі характар гэтай дзейнасьці. Яшчэ ў першыя гады XX ст. намаганьні будзіць нацыянальную сьвядомасьць сярод беларусаў, разьвіваючы такія яе асноўныя элемэнты, як літаратуру і агульнанацыянальную мову, былі справаю адзінак і заставаліся амаль незаўважныя ў кантэксьце пануючых на Беларусі расейскай і польскай культураў[77]. Таму выхад у ліпені 1906 г. першага лемантара сучаснай беларускай мовы быў успрыняты ў зацікаўленых колах як беспрэцэдэнтны заклік да народу адраджаць сваю культуру і адначасова — як выклік бязьлітаснай гісторыі. “Дык існуе і беларуская культура?” — зь зьдзіўленьнем пытаўся віленскі “Kurier Litewski”, які выхад лемантара прызнаў падзеяй, вартай вялікага камэнтара на відным месцы газэты[78]. У гэтай падзеі, што пачала дзейнасьць суполкі “Загляне сонца і ў наша аконца”, памянёная газэта ўгледзела прамень нацыянальнай культуры, які ад тае пары зазіраў усё часьцей у вокны беларускіх хатаў.

## Пералік кніг, выдадзеных суполкай “Загляне сонца і ў наша аконца”

*Тлумачэньні:*
Л — выданьне лацінкай;
К — выданьне кірыліцай;
Л+К — два асобныя выданьні лацінкай і кірыліцай;
ЛК — адно выданьне часткова лацінкай, часткова кірыліцай;
Месца выданьня: П — Пецярбург, В — Вільня.
Год выданьня ў дужках азначае год выданьня, пададзены на ўнутранай вокладцы, калі ён не супадае з пададзеным на тытульнай старонцы ўнутры кнігі.

[76] Александровіч С. Гісторыя... С. 169.
[77] З гісторыі беларускага выдавецкага руху ў 1902—1905 гадох. С. 41—54 гэтага выданьня. — *Рэд.*
[78] Elementarz Białoruski // Kurier Litewski. 25.07.1906. S. 1; перадавы артыкул падпісаны ініцыялам “J”. Можна меркаваць, што напісаў яго Чэслаў Янкоўскі — рэдактар гэтай газэты.

| Назва | Шрыфт | Месца і год выданьня | Старонак | Наклад |
|---|---|---|---|---|
| **Школьныя падручнікі** | | | | |
| Беларускі лемантар, або Першая навука чытаньня | Л+К | П 1906 | 23 і 30 | |
| Цётка. Першае чытаньне для дзетак беларусаў | Л+ФК | П 1906 | 32 і 31 | |
| Гутаркі аб небе і зямлі. На беларускую мову перакладалі К. Кастравіцкі і С. Шаўлоўскі | К | П 1907 | 68 | |
| Колас Я. Другое чытаньне для дзяцей беларусаў. Пераглядзеў і прыпісаў прадмову Л. Сяўрук | К | П 1909 (1910) | 112 | 6000 |
| **Мастацкая літаратура** | | | | |
| **А. Сэрыя "Народныя песьняры"** | | | | |
| Бурачок М. (Багушэвіч Ф.). Дудка беларуская | Л | П 1907 | 67 | |
| Міцкевіч А. Пан Тадэвуш. На беларускую гутарку перавярнуў Вінцук Марцінкевіч | Л | П 1907 | 64 | 3300 |
| Дунін–Марцінкевіч В. Гапон. Аповесьць беларуская | Л | П 1907 (1908) | 32 | 4300 |
| Рэўка С. (Багушэвіч Ф.). Смык беларускі | Л | П 1908 | 39 | |
| Дунін–Марцінкевіч В. Вечарніцы. Аповесьці беларускія. | Л | П 1909 | 32 | 4300 |
| Дунін–Марцінкевіч В. Шчароўскія дажынкі. Купала. Аповесьці. | Л | П 1910 | 47 | 4300 |
| Бурачок М. (Багушэвіч Ф.). Дудка беларуская. | Л | П 1914 | 64 | |
| **Б. Творы сучасных аўтараў** | | | | |
| Купала Я. Жалейка. Вершы | К | П 1908 | 161 | |
| Новіч А. У дому лепей. Апавяданьне. | К | П 1911 | 8 | 4000 |
| Купала Я. Сон на кургане. | К | П 1912 (1913) | 100 | |
| Купала Я. Шляхам жыцьця. | К | П 1913 | 264 | 3000 |
| Колас Я. Батрак. Апавяданьне з жыцьця палешукоў. | Л | 1913 | 28 | |
| Бядуля З. Абразкі. Вершы ў прозе | Л | П 1913 (1914) | 40 | |
| Гартны Ц. Песьні | Л | П 1913 | 50 | |
| Новіч А. Амэрыканец. Апавяданьне. | К | П 1913 | 23 | |
| **Сцэнічныя творы (рэпэртуарная сэрыя, літаграфічныя выданьні)** | | | | |
| Каганец К. Модны шляхцюк. Бытавая камэдыя ў 1 дзеі. | К | П 1910 | 21 | 200 |
| Чэхаў А. Сватаньне. Жарцік. Пералажыў з расейскае на беларускую мову Н. Чарноцкі. | К | П 1910 | 22 | 200 |
| Крапіўніцкі М. Пашыліся ў дурні. Жарцік у 3–х дзеях. Пераложана (з папраўкамі) з украінскае на беларускую мову. | К | П 1910 | 62 | 200 |
| Ажэшка Э. У зімовы вечар. Сцэна зь сялянскага жыцьця. На беларускую мову з рукапісу пераклаў Власт | К | П 1910 | 33 | 200 |
| Крапіўніцкі М. Па рэвізіі. Камэдыя ў 1 дзеі. Перароблена з украінскае мовы. | К | П 1911 | 34 | 400 |

| Назва | Шрыфт | Месца і год выданьня | Старонак | Наклад |
|---|---|---|---|---|
| Міхалка. Камэдыя ў 1 дзеі. С польскага на беларускі лад перарабілі Далецкія. | К | П 1911 | 30 | 400 |
| Ажэшка Э. Хам (Мужык) | К | П 1912 | 74 | |
| Купала Я. Паўлінка. Сцэны із шляхоцкага жыцьця ў двух актах. | К | П 1913 | 85 | |
| Валодзьскі А. Як яны жаніліся. (Жарт). Вольны пераклад Власта. | К | П 1913 | 28 | |
| Чэхаў А. Мядзьведзь, Жарт у 1–м акце. Пераклад з расейскаго. | К | П 1913 (1914) | 27 | |
| **Земляробчая літаратура** | | | | |
| Дулеба К. Як ратаваць уздутую жывёлу? Пералажыў на беларускую мову Антось Хатні. | Л+К | В 1909 | 16 і 16 | 3000 +3000 |
| Бярозка Г. Пчаліна — жывёлка малая, а карысьці дае многа. | Л | П 1911 | 103 | 4000 |
| **Палітычная літаратура** | | | | |
| Навіна А. На дарозі да новага жыцьця. | К | П 1912 | 28 | |
| Літаратурна–грамадзкія альманахі: Маладая Беларусь. Ч. 1. | ЛК | П 1912 | 166 | 1500 |
| Маладая Беларусь. Ч. 2. | ЛК | П 1912 | 160 | |
| Маладая Беларусь. Ч. 3. | ЛК | П 1913 | 152 | 1000 |

*Крыніца*: Бібіла Ю. Паасобныя выданьні на беларускай мове (1835—1916) // Летапіс беларускага друку. Ч. II. Менск, 1929.

Piecierburch 24/II 1905 r.

Panie Szanawany,
Czuŭ ja nie raz ad usielakich
ludziej i ad panawaho bra-
tanca, szto wielmi Wy lubi-
cie naszu mowu i piszecie
samy inszy raz u naszaj mowi.
To ja chacieŭ paznajomicca z
Wami chacia praz pisulki, bo
szto ž, Wy žywiecie u Minszczy-
ni, a ja u Piecierburchu.
A takich ludzioŭ, szto naszu mowu
dyj naszaho muzyka lubiać mała
na świeci, to treba kab chacia
kampanii pilnawali. A Wy, Panie,
samy szmat rabili, no i cia-
pier taje pracy nie kinuli.
Zwiejecca, mieli Wy wydać

Фота 1. Пачатак першага ліста Вацлава Іваноўскага да Аляксандра Ельскага ад 24 лютага 1905 г.

Адрес:
С. Петербургъ.
Технологическій Институтъ
Лабораторія Питательныхъ Веществъ
Лаборанту Инжен. Техн.
Вацлаву Ивановскому.

Фота 3. Заканчэньне ліста В. Іваноўскага да А. Ельскага (адрас адпраўніка) ад 24 лютага 1905 г.

Piecierburch 3/IV 1905

Panie Szanawany,

Dziakuju wielmi Wam
za listok, ale ja dumaŭ,
szto Wy pa naszki ani
adkažecie, ažno wyjszła
nie toje.
Ksiažki, szto Wy pisali,
maju ŭsie, tolka i znaju,
ich dobra. Ale ŭot
szto kiepska - Waszaho
„Pana Tadeusza" nijak
znajści nie mahu, na-
piszycie, hdzie jon na
akładzi za hranicaj.
Ci nie mahli by Wy
addaĭ jako na skład
do „Ksiązki" Kraków
-Grodzka N50.

Фота 4. Пачатак ліста В. Іваноўскага да А. Ельскага ад 3 красавіка 1905 г., які датычыць выданьня перакладу “Пана Тадэвуша” А. Міцкевіча.

Tam kłaŭny skład
„Dudki" „Smyka" lub
„Pesni" ~~niesłaŭ~~ na
ziatkaj i „Pan Tadeusz"
byŭ by u kampanii.
A tak widzicie, ja sam
maŭ dwa hady cha-
cieŭ choć adzin ~~~~
dastać – i nie dapytajasia.
Nie zabudzicie zrabić hetaha,
napiszycie da „Kosiniki",
i nie majecie znajomych
jakich, szto zachacieli by
knižak wydać pa našamu. Toj jość napisa-
nyje. Kažuć, szto Woj-
niłłowicz – toj moh
by wydać, mo zna-
jecie jako?

Фота 5. Ліст В. Іваноўскага да А. Ельскага ад 3 красавіка 1905 г., які закранае пытаньне выданьня твораў Ф. Багушэвіча і перакладу “Пана Тадэвуша” А. Міцкевіча на беларускую мову.

Szto u Was czuwać,
jak mużyki, szto
haworać mież saboj!?
Cikawy czas ciapier,
cikawy i straszny
razam.

Budźcie zdarowy.

W. Iwanoŭski.

Фота 6. Заканчэньне ліста В. Іваноўскага да А. Ельскага ад 3 красавіка 1905 г.

Pieciarburh 15/V. 1905.

Panie Szanowny i Swajacze

„Pana Tadeusza” i pisulku

Wašu dastaŭ. Da pana Kali-

ny nic napisaŭ, i dumaju

što za jaki miesiac knyžka

ksiažak tutaka budzie.

Ale wy, Susiedzie, napišycie

kaniečnie da p. Kaliny, kab

jon z jakuju tysiačku addaŭ

na skład da „ksiontki”

– Krakaŭ – Grodzka № 50.

Tady možnie bydzie mieci z

hetkaha tyje ksiontki ciahom.

A može taja „Maciei Polska”

pradała by usieńki nakład,

kolki jana zachoce, i kolki

jości ezi? Panie Swajacze, ta

Фота 7. Першая старонка ліста В. Іваноўскага да А. Ельскага, напісанага 15 траўня 1905 г. у Пецярбургу.

kab zaŭ zrabić tawarystwo dla
drukawania biełaruskich knižak,
taj, jak Ukraincy majuć,
to dobra było b, zdajecca, mnie,
szto možna było b znajści
ludziej, szto pałažyli by pa kod-
-nu rubloŭ pa dziesiaciu [illegible]
znajści možna ludziej z 20
na pačatak [illegible] i dziwa
knižki szto budu [illegible] wydawa-
liby.
Padumajcie, swajacy,
adkažycie chutka.
Mo ja u letka pabaczymsia,
kali budu u Minszczyni,
pastarajusia Was
pabaczyć.
W. Iwanoŭski.

Фота 8. Другая старонка ліста В. Іваноўскага да А. Ельскага ад 15 траўня 1905 г., які пацьвярджае задуму стварыць суполку для выданьня кніжак на беларускай мове.

Pieciarburh [illegible]

Šanoŭny!

I [illegible] wam pisali wy

niekalis'ci, ci nia mohly ja

dastać „Pana Tadeusza". O

Woś ciapier, kali wola Wasza,

możacie dastać u mianie

ośmi i piatnaccać. Kaštawa-

li jany mnie niešta pa

kapiejek 55 na sztuku.

To, kali chočacie, napiszycie,

a ja zraz Wam i wyšlu.

Niekalki ludziej „tutejšych",

što u Pieciarburhu [illegible],

zatažyli wydawnicku supolku,

ciapier adbiwajecca ŭsio elementar,

katory dwajakimi znakami,

A heta znaczyć, pa prostu kažu-

čy, zaraz budzie dwa elementa-

ry. Ci nie pastupili-by i wy

Фота 9. Чарговы ліст В. Іваноўскага да А. Ельскага ад 17 красавіка 1906 г. (пачатак).

Da tajé supołki? Udziały, z prawam karystańnia z zysku, budzie po 10 rubloŭ koźny.
Nie kałajucy budzie adkryty ustaŭ supołki, to Wam jaho [illegible] pasłaju.
Jszcze, kali łaska, napiszycie adras synaŭca Wašaho, zabyŭšia imia, studenta Technologicznaho Instytuta, wielmi Wam dziakawai budu.

Budźcie zdarowy, kłaniajecca Wam
W. Iwanoŭski.

Ps. Synaŭcu Wašamu imia Adwardak, prypomniŭ. W. J.

Фота 10. Працяг ліста В. Іваноўскага да А. Ельскага ад 17 красавіка 1906 г. (прапанова далучыцца да выдавецкай суполкі).

Pieciarburh 1/VIII. 1906.

Panie Šanoŭny!

Wybačajcie, što z razu na
Wašu pišulku nie adkazoŭ,
ale, bačycie, hramada ra-
boty listo, pakul usio z ta-
potkoj naładzili. Ciapier,
dziakuj Bohu, lementar
wyjšoŭ na świet boży,
ludzi dobryje pamahajuć.
Za pisulki od Was nale-
žycca za 45 pa 5 kap. –
2, 25 kap. počta ničoha
bolš, jak za paśyłku.
Lementar Pani Šnarf
wyšlu.

Budźcie zdarowy

W. Iwanoŭski.

Фота 11. Ліст В. Іваноўскага да А. Ельскага ад 1 жніўня 1906 г. (інфармацыя аб выданьні беларускага лемантара).

# Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі

## Ад аўтара

Сустракаючы надыход новага 1942 году, Вацлаў Іваноўскі павучаў сваіх маладых супрацоўнікаў у Менску: “Вынайсьці порах важна, але ня менш важна навучыцца яго выкарыстоўваць”. Пры дапамозе гэтага афарызму ён паказваў, што рэалізацыя ідэі значыць ня меней за самую ідэю. Ён быў хімік–тэхноляг і ў гэтым няблага разьбіраўся.

Такім чынам ён перадаваў свой досьвед. Выстаўляючы ў 1902 г. пастулят стварэньня мадэрнай беларускай нацыі і будаўніцтва Маладой Беларусі, ён трактаваў гэта ня проста як прыгожую ідэю. Былі і да яго яе вынаходнікі: Францішак Багушэвіч, Казімер Кастравіцкі, народавольцы ды іншыя. Але яны ня здолелі перайсьці ад маралізатарства да практычнай дзейнасьці. Адно Вацлаў Іваноўскі пачаў гэтую ідэю ператвараць у сапраўднасьць.

Гэта быў выклік гістарычна сфармаванаму палітычнаму і культурнаму ўкладу ў Беларусі, пальчатка, кінутая Расеі і Польшчы, якія ўважалі гэты край за сфэру сваіх інтарэсаў і заўзята вялі за яго ідэалягічную вайну.

Ён быў рацыянальным рамантыкам. Ён разумеў, што пачынаць трэба зь вяртаньня з забыцьця ўласных спрадвечных каштоўнасьцяў, іх памнажэньня і распаўсюджаньня; з засваеньня майстэрства незалежнага палітычнага мысленьня; нарэшце, ад разрыву псыхалягічнай пупавіны, якая трымала яго нацыю ў залежнасьці ад культураў суседніх нацыяў і дзяліла на “рускіх” і “палякаў”. І таму ён пачаў ствараць маладую беларускую інтэлігенцыю, сьвядомую ў сваіх мэтах.

Іваноўскі вызначаўся вялікай працавітасьцю, здольнасьцю арганізоўваць калектыўную дзейнасьць. Ён умеў знаходзіць сродкі, гуртаваць супрацоўнікаў, дзеяць самастойна, з разьлікам найперш на ўласныя сілы. Ён заахвочваў маладыя таленты і творчыя ініцыятывы, адкрыў сьвету найвялікшага прарока беларускага нацыянальнага адраджэньня — Янку Купалу[1], узьвёў на айчынны Парнас Алёйзію Пашкевічанку–Цётку ды іншых. І пры гэтым заставаўся надзвычай сьціплым, вылучаў на першы плян іншых — не сябе.

Яму сьнілася незалежная Беларусь. Толькі гэтай мэце былі падпарадкаваныя ўсе яго намаганьні абудзіць і зрабіць масавай нацыянальную сьвядомасьць. Ужо маладым студэнтам ён зразумеў, што дасягнуць гэтай мэты будзе немагчыма без рэальнай вонкавай падтрымкі. І таму супрацоўнічаў з Расеяй, Польшчай, Нямеччынай — усё залежала ад абставінаў, часу, ад здольнасьці і зацікаўленасьці патэнцыйнага саюзьніка падтрымліваць інтарэсы Беларусі. Бо толькі ёй адзінай прысягнуў ён на непарушную вернасьць, на іншых жа глядзеў цераз прызму беларускіх інтарэсаў і чакаў разуменьня і помачы.

Гэтым шляхам ён ішоў усё жыцьцё, і дзейнасьць яго рэдка здавальняла суседзяў — ён не хацеў ім падпарадкоўвацца. Таму стаўленьне да Іваноўскага польскіх, расейскіх і савецкіх дзеячоў і публіцыстаў звычайна адпавядала іх стаўленьню да памкненьняў беларускага незалежніцкага руху. І адны, і другія часта расцэньвалі гэты рух як скіраваную супраць іх варожую інтрыгу. А ўжо адсюль была найкарацейшая дарога да дзіўных закідаў, паклёпаў і агідных абразаў.

Постаць Іваноўскага была выкрасьленая з гісторыі беларускай культуры і нацыянальнага руху. Згодна з дырэктывамі камуністычных уладаў Беларусі яго падавалі як

[1] Дакладней было б сказаць, што талент Я. Купалы адкрыў У. Самойла, а В. Іваноўскі даў магчымасьць яму рэалізавацца праз кнігі, бо зь сямі кніг Я. Купалы, што выйшлі да першае сусьветнае вайны, чатыры (“Жалейка, “Сон на кургане”, “Паўлінка” і “Шляхам жыцьця”) выпусьціла ўзначаленая В. Іваноўскім выдавецкая суполка “Загляне сонца і ў наша аконца”. — *А.С.*

ворага народу, польскага або нямецкага служаку, захопніка і акропленую чалавечай крывёй пачвару. У менскіх навуковых колах аб ім гаварылі ўпотай. Дайшло нават да таго, што віленскі мастак Пётра Сергіевіч баяўся прызнацца, што ў 1943 г. выканаў партрэт Вацлава Іваноўскага, і толькі ў 1985 г., ужо пасьля сьмерці мастака, было высьветленае яго аўтарства, дый тое ня ў Менску, а ў Злучаных Штатах.

Трэба падкрэсьліць, што асуджэньне Іваноўскага савецкімі ўладамі было выкліканае ня толькі яго пазыцыяй часоў нямецкай акупацыі, яно датычыла ўсёй яго дзейнасьці ўвогуле. Яно было выражэньнем непераборлівай на сродкі палітычнай барацьбы і таму не заслугоўвае скрупулёзнай крытыкі. Тым ня меней, гэтае асуджэньне мела сур'ёзныя наступствы. Галоўным зь якіх бадай было эфэктыўнае блякаваньне многія дзесяцігодзьдзі магчымасьці дасьледаваньня ў Беларусі жыцьця і дзейнасьці гэтага чалавека.

Усё гэта абуджала ўва мне супраціў і падштурхоўвала да самастойных досьледаў. Я распачаў іх у канцы 70–х гадоў з марудных, але надзвычай захапляльных дасьледаваньняў у польскіх архівах і бібліятэках, зь перапіскі і размоў з асобамі, якія ведалі і супрацоўнічалі з Вацлавам Іваноўскім.

Аказалася, што іх нямала. Шмат каштоўнай інфармацыі пра жыцьцё і дзейнасьць Вацлава Іваноўскага, а таксама здымкаў і дакумэнтаў я атрымаў у 1978—1980 г., асабліва — ад Марыі Арнольдзіхі, Зоф'і Дабрынскай, Анны Іваноўскай–Карнэцкай — дачкі Вацлава Іваноўскага, Аўгена Калубовіча, Язэпа Найдзюка–Александровіча, Марка Валейкі, Тамаша Зана і Бэрнарда Закшэўскага, за што сардэчна ім дзякую.

Шэраг найбольш істотных аспэктаў дзейнасьці Вацлава Іваноўскага я падаў у сваіх артыкулах і досьледах, якія выйшлі ў сьвет у 80–я г. у польскай навуковай пэрыёдыцы: "З гісторыі беларускага выдавецкага руху 1902—1905 г." (Studia polono–slavica–orientalia. Acta litteraria. T. IX. 1985 [с. 41—52 у гэтым выданьні]); "Абставіны публікацыі і аўтарства першага беларускага лемантара" (Slavia Orientalis. 1986. № 3 [с. 31—40 у гэтым выданьні]); "Узаемадачыненьні ППС зь беларускім рэвалюцыйным рухам у 1902—1906 гадох" (Studia polsko–litewsko–białoruskie. Warszawa, 1988 [с. 55—65 у гэтым выданьні]) і "Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру 1941—1944" (Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej. T. XIX. 1983 [с. 464—484 у гэтым выданьні]).

Абставіны яго палітычнай дзейнасьці падчас другой сусьветнай вайны я стараўся падрабязна разгледзець у кнізе "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" (Варшава—Уроцлаў, 1989). [С. 510—677 у гэтым выданьні. — *Рэд.*]

*Варшава, студзень 1992 г.*

## Gente Rutheni, natione..?

Мае размовы зь людзьмі, да якіх я зьвяртаўся, каб выпытаць дэталі з жыцьця і дзейнасьці Вацлава Іваноўскага, звычайна пачыналіся з таго, што мне рабілі адно й тое найважнейшае паведамленьне, якое мусіла прагучаць, як вялікая сэнсацыя: "А, Іваноўскія... Іх было некалькі братоў — Юрка быў паляк, Вацлаў — беларус, а Тадэвуш — літовец..." Вакол нязвыклых, незразумелых падзеяў часта паўстаюць легенды, таму я не зьдзівіўся, калі аднойчы шаноўная паня сказала, што, калі гэтыя браты сустракаліся, кожны гаварыў па–свойму і ня мог адзін аднаго зразумець.

Добраахвотнае нацыянальнае самавызначэньне, пра якое пойдзе гаворка, у прынцыпе — справа сьвядомага выбару чалавека. І таму мы маглі б прамінуць гэтае рашэньне братоў Іваноўскіх і не паглыбляцца ў яго матывацыю, калі б гэта засталося іх прыватнай справай. Але ж было іначай. Кожны з братоў адыграў выбітную ролю ў абранай ім нацыянальнай галіне, і таму іх самавызначэньне стала прадметам публічных, часта вельмі эмацыйных камэнтароў. Натуральна, літоўцы ахвотна прынялі выбар Тадэвуша, затое

беларусы часта глядзелі на выбар Вацлава падазрона, як на выбрык шляхецкай фантазіі. Але найбольш папрокаў было з польскага боку, гэтак жа, як і ў гучным выпадку Шаптыцкіх[2]: маўляў, з гэткай добрай абшарніцкай сям'і, ды раптам адзін — беларус, а другі — літовец... Гэта называлі адшчапенствам, здрадай нацыі (польскай!), у найлепшым выпадку — анамаліяй. У гарачым жаданьні пашырыць межы сваіх нацыянальных уплываў палякі не хацелі альбо не маглі зразумець, што спэцыфічная гісторыя гэтай сям'і абумовіла ўсе тры варыянты яе нацыянальнага самавызначэньня.

Ключом да разуменьня гэтага ўяўнага парадоксу было складанае мінулае Вялікага Княства Літоўскага і яго сацыяльнай эліты, зь якой паходзіў род Іваноўскіх. Гэтая дзяржава, што паўстала ў выніку задзіночаньня дзьвюх аўтахтонных стыхіяў — літоўскай і рускай — ужо ў першую фазу свайго існаваньня была неаднастайнай з этнічнага, рэлігійнага і моўна–культурнага гледзішча, а яе далейшае тэрытарыяльнае разьвіцьцё паглыбіла гэтую неаднастайнасьць да незвычайных памераў. На пераломе XIV і XV ст., калі Вялікае Княства Літоўскае распасьціралася ад Балтыкі да Чорнага мора і ад Вязьмы на ўсходзе аж да Холму на захадзе, аўтэнтычныя літоўцы складалі толькі крыху больш за 10% ад яе жыхароў, тады як пераважную большасьць — продкі цяперашніх беларусаў і ўкраінцаў. Пасьля таго, як, згодна з умовамі Люблінскай уніі (1569), Падляшша і ўкраінскія землі адыйшлі да Польшчы, Вялікае Княства, куды цяпер уваходзілі абшары Літвы і Беларусі, стала больш аднастайным, але па–ранейшаму ў ім пераважаў рускі элемэнт, на гэты раз — беларускі[3].

Перапляценьне гэтых двух элемэнтаў заходзіла вельмі далёка. Намесьнікі вялікіх літоўскіх князёў надавалі землям Белай Русі новую дзяржаўную арганізацыю, а наўзамен прымалі — найчасьцей разам з жонкамі — праваслаўную веру, мясцовую культуру, звычаі і беларускую мову. У выніку гэтая мова ў старабеларускім яе варыянце стала дзяржаўнай. Эфэктыўна праходзіла і моўная беларусізацыя літоўскіх плямёнаў, у выніку літоўскі этнічны прасьцяг, які напачатку сягаў аж па Менск, скараціўся да віленскіх ваколіцаў. Такім чынам, адбывалася цікавая паняткавая трансфармацыя: беларускі баярын з–пад Горадні ці Менску самавызначаўся як ліцьвін, тым часам як карэнныя літоўцы станавіліся — паводле сёньняшніх крытэраў — беларусамі. Экспансія ішла як бы ў двух кірунках.

Важныя наступствы ў гэтым абсягу меў хрост Літвы (1387). Па–першае, паганская частка эліты ВКЛ прыняла каталіцкае веравызнаньне, што замарудзіла ў гэтай сацыяльнай сфэры пашырэньне праваслаўя і беларушчыны. Па–другое, дзякуючы таму, што каталіцтва стала прывілеяванай і пануючай рэлігіяй, праваслаўная частка эліты апынулася ў горшай сытуацыі за каталіцкую. Пачалася доўгатрывалая вайна праваслаўных магнатаў і шляхты за раўнапраўе, за доступ да высокіх урадавых пасадаў і прывілеяў, падтрыманая і выкарыстаная маскоўскімі царамі дзеля ўмяшальніцтва ўва ўнутраныя справы дзяржавы. Канец гэтай канфліктнай сытуацыі паклаў прывілей Жыгімонта Аўгуста ад 1563 г. — згодна зь ім іншаверная шляхта ВКЛ атрымала тыя самыя правы, якімі з часоў Ягайлы карысталіся каталікі.

Тэарэтычна зьнішчэньне рэлігійных бар'ераў магло дадатна адбіцца на разьвіцьці і захаваньні традыцыйных ідэйных каштоўнасьцяў, такіх, як праваслаўе і беларушчына. Аднак, насамрэч, усё атрымалася наадварот. Раўнапраўе праваслаўнай эліты дало ёй большыя магчымасьці для ўдзелу ў грамадзкім жыцьці дзяржавы, што ў сваю чаргу прывяло да росту зацікаўленьня ў атрыманьні адукацыі. Але Праваслаўная царква мала што магла прапанаваць у гэтай галіне і ў гэтым сэнсе не магла спаборнічаць з асьветні-

[2] Маецца на ўвазе, што з спольшчанага роду Шаптыцкіх выйшлі выдатныя дзеячы ўкраінскага руху: прадстаяльнік Грэка–каталіцкай царквы Андрэй (да пострыгу Раман) Шаптыцкі і ягоны брат архімандрыт Клімэнт (у сьвеце Казімер). — *А.С.*

[3] Трэба мець на ўвазе, што ў той час праваслаўныя хрысьціяне Кіеўскай (Наваградзкай) мітраполіі называлі сябе рускімі, а сваіх усходніх суседзяў — масквою, маскавітамі. Адпаведна і цэрквы былі Руская і Маскоўская. Такі падзел прасочваецца і ў літаратуры. — *А.С.*

цкай дзейнасьцю Каталіцкай царквы, асабліва езуітаў, якія падчас Контрарэфармацыі арганізавалі шматлікія школы на чале зь Віленскай акадэміяй. Яны сталі важным асяродкам паланізацыі і акаталічваньня сваіх выхаванцаў, дзейсна прычыніліся да пашырэньня гэтых тэндэнцыяў сярод эліты ВКЛ.

У пачатку XVII ст. працэс паланізацыі і акаталічваньня вялікалітоўскіх магнацкіх родаў быў, у прынцыпе, завершаны; падпала пад яго і частка беларускай шляхты. Прагрэс культурнай уніфікацыі эліты, тагачаснай палітычнай нацыі, хоць і меў вялікае значэньне для ўзмацненьня дзяржаўнага адзінства, аднак не перакрэсьліваў пачуцьця палітычнай адметнасьці. Вялікае Княства Літоўскае заставалася адным з элемэнтаў Рэчы Паспалітай, але па–ранейшаму захоўвала дзяржаўную самастойнасьць з пэўна акрэсьленымі межамі, уласным заканадаўствам і г.д. Сярод магнатаў ВКЛ ня раз нараджаліся сэпаратысцкія тэндэнцыі, хоць, на думку польскіх гісторыкаў, яны мелі пераважна тактычны характар і вынікалі з жаданьня захаваць сваю ідэнтычнасьць і партнэрскі статус–кво ў дачыненьнях з Каронай. Такім чынам, моўна–культурная паланізацыя не супярэчыла літоўскай палітычнай сьвядомасьці. Януш Радзівіл у 1615 г. пісаў свайму брату Крыштапу: “Хоць ліцьвінам я нарадзіўся і ліцьвінам давядзецца мне памерці, аднак даводзіцца нам на радзіме нашай ужываць мову польскую”.

Аднак гэты “прымус” выкарыстаньня польскай мовы нараджаўся не з распараджэньняў “зьверху” (хто ж мог у гэтай справе загадваць Радзівілам ці Сапегам?), але зь незацікаўленасьці вялікалітоўскай эліты ў разьвіцьці ўласнай, накшталт Рэя і Кахаўнскага, культуры на падставе народных літоўскіх і беларускіх элемэнтаў. Пасьля выдатных дасягненьняў XVI ст. (выдавецкая дзейнасьць Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Статут ВКЛ ды інш.) гэта прывяло да значнага рэгрэсу беларускага пісьменства, якое абмежавалася толькі царкоўнай сфэрай.

Стаўленьне эліты ВКЛ да роднай культуры рэдка прыцягвала ўвагу гісторыкаў, хоць гэта ня менш цікавае пытаньне, чымся культывацыя палітычнай адметнасьці. Бо, нягледзячы на поступ паланізацыі, беларуская і літоўская шляхта ня толькі захоўвала веданьне мовы сваіх продкаў, якую звычайна выкарыстоўвала ў размовах з простым людам, але практычна няшмат зрабіла для яго паланізацыі. Гэта выразілася ў асаблівым вырашэньні рэлігійнага пытаньня ў Беларусі. Няма сумневу, што ў атмасфэры Контрарэфармацыі акаталічаная эліта ВКЛ магла, кіруючыся прынцыпам *cuius regio eius religio* (хто гаспадар, таго і вера — *лац.*), навязаць рымскі каталіцызм сваім праваслаўным падданым. Гэта пацьвярджае дзейснае выкарыстаньне гэтага прынцыпу ў іншых абшарах, між іншым, Радзівіламі–пратэстантамі ў іх валоданьнях у ваколіцах Біржаў у Літве, якія і па сёньняшні дзень застаюцца выспай пратэстантызму сярод каталіцкага літоўскага насельніцтва. Але ў Беларусі, калі не лічыць спарадычных выпадкаў, гэтым прынцыпам не кіраваліся, і таму да масавай лацінізацыі сялянства і мяшчанства не дайшло — для іх знайшлі іншае вырашэньне — Уніяцкую царкву, створаную ў 1596 г. на Берасьцейскім саборы.

Ці было прыняцьце уніі для Беларусі карысьнейшае за лацінізацыю — пытаньне спрэчнае, затое не падлягае сумневу факт, што яно дазволіла захаваць царкоўную апрычонасьць, якая была важным культуратворчым фактарам. У прыватнасьці, захавалася неабходнасьць у выпуску кірылічнай рэлігійнай літаратуры і ўменьні яе чытаць. Уніяцкае духавенства, як, зрэшты, і праваслаўнае, падпадала пад уплыў польскай культуры, але ў вясковых цэрквах аж да скасаваньня уніі ў 1839 г. ужывала мясцовыя гаворкі беларускай, а ня польскай мовы. Таму Уніяцкая царква стала важным асяродкам для захаваньня моўна–культурнай традыцыі і эфэктыўным бар’ерам, які запавольваў лацінізацыю і апалячваньне ніжэйшых праслоек беларускага грамадзтва, што часта выклікала крытыку рымa–каталіцкага духавенства. І хоць мясцовая праваслаўная герархія фармальна прыняла царкоўную унію, яе галоўным правадніком стаў канцлер ВКЛ Леў Іванавіч Сапега, што прадвызначыла падтрымку з боку магнатаў і шляхты і прывяло да посьпеху уніі ў Беларусі.

Стаўленьне эліты да акаталічваньня і палянізацыі простага люду не заўсёды тлумачылася яе безахвоцьцем. Так, напрыклад, моўную палянізацыю прыгоннага сялянства стрымлівала ці рабіла ўвогуле немагчымай яго сацыяльнае становішча. Затое ў рэлігійнай сфэры гэткіх перашкодаў не ўзьнікала, і таму пазыцыя эліты мела шматлікія рысы сьвядомага дзеяньня. Цяжка, аднак, гэтую пазыцыю ацэньваць як выражэньне талерантнасьці вялікалітоўскіх вяльможаў, да якой яны былі ня надта прызвычаеныя. Сапраўдная прычына хавалася глыбей і адлюстроўвала найперш іх адданасьць айчынным традыцыям і павазе да тых духоўных каштоўнасьцяў, якія абумовілі адметнасьць і культурную спэцыфіку краіны. Адсюль вынікае, што эліта ў Беларусі спрыяла яе захаваньню сярод простага люду, хоць і не была сама зацікаўленая ў разьвіцьці айчыннай культуры.

Традыцыя дзяржаўнай самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага аказвала значны ўплыў на фармаваньне палітычнай сьвядомасьці беларускай і літоўскай шляхты нават у апошнія гады Рэчы Паспалітай і пасьля яе заняпаду. Пра гэта сьведчаць спробы вярнуць Вялікаму Княству статус суб’екта, скасаваны травеньскай канстытуцыяй 1791 г., ход паўстаньня Касьцюшкі дый, урэшце, намаганьні аднавіць ВКЛ пад скіпэтрам Раманавых[4]. І хоць спроба не дала практычных вынікаў, гэта не мяняе факту: літоўскія вяльможы былі гатовыя вырашаць лёс сваёй бацькаўшчыны шляхам супрацоўніцтва з Расеяй. Гэта адлюстроўвала, па сутнасьці, тыя самыя інтарэсы і пазыцыі, якія раней схілялі іх дабівацца швэдзкай пратэкцыі (Кейданскі акт 1655 г.) ці ў Масквы (дамова зь Пятром I 1703 г.). Таму шмат гаворыць за тое, што г.зв. літоўскі сэпаратызм быў не выпадковаю зьяваю, але вынікам пэўнай палітычнай стратэгіі, скіраванай на захаваньне суб’ектнасьці ВКЛ у найбольш карысным фэдэрацыйным саюзе з Польшчай альбо зь іншай рэальнай сілай.

У першыя дзесяцігодзьдзі расейскага панаваньня становішча беларускай і літоўскай шляхты істотна не зьмянілася. Яе сацыяльна–эканамічныя пазыцыі парушаныя не былі, доступ да мясцовых органаў улады не абмяжоўваўся, свабодна дзейнічала Каталіцкая царква, а пад апекай Адама Чартарыйскага пашыралася польскае школьніцтва, працаваў Віленскі ўнівэрсытэт. Па–ранейшаму, аж да 1840 г., дзейнічаў Статут ВКЛ, а значыць, выконваліся нормы традыцыйнага заканадаўства. Новая палітычная сытуацыя задавальняла большасьць шляхты і не давала падставаў для буйнамаштабнай апазыцыйнай дзейнасьці. Гэтыя настроі падзяляў і Адам Міцкевіч, які ў прадмове да выдадзенага ў 1828 г. “Конрада Валенрода” захапляўся асобаю Аляксандра I, жадаючы, “каб імя Айца гэтулькіх народаў ува ўсіх пакаленьнях на ўсіх мовах у роўнай меры праслаўлена было”.

Істотныя зьмены ў становішчы шляхты прынесьлі польскія паўстаньні 1830 і асабліва 1863 г., якія выклікалі перамены ў расейскай палітыцы. У абодвух паўстаньнях удзельнічала толькі частка шляхты, прычым у большай ступені ў Літве, чым у Беларусі, але для расейскіх уладаў гэты ўдзел быў дастатковым прэтэкстам для таго, каб распачаць барацьбу ўва ўсім краі з польскімі культурнымі і палітычнымі ўплывамі. Таму, з аднаго боку, шырока разгарнуліся рэпрэсіі: закрыцьцё польскіх школаў і ўнівэрсытэту, абмежаваньне дзейнасьці Каталіцкай царквы, выцясьненьне польскай мовы з грамадзкага ўжытку, кантрыбуцыі і канфіскацыі маёнткаў, высылкі і г.д. — а з другога боку, пачалася плянамерная русіфікацыя краю.

У пэўным сэнсе мэтады русіфікацыі былі супрацьлегласьцю памянёным рэпрэсіўным захадам: пашырэньне расейскага школьніцтва, масавае перасяленьне расейскіх каляністаў, чыноўніцтва і духавенства, падтрымка праваслаўя і распаўсюджваньне расейскай мовы. У сыстэме гэтых захадаў асаблівую ролю адыгрывала скасаваньне царкоўнай уніі і далучэньне беларускіх уніятаў да Праваслаўнай царквы (1839 г.). Гэта была ціхая рэвалюцыя, якая мела вельмі вялікае значэньне ня толькі ў сэнсе рэлігійным, але і палітычным: уцягваньне пераважнай масы беларускага сялянства і часткі мяшчанства ў арбіту

[4] Вядомы праект аднаўленьня ВКЛ, распрацаваны графам М.К. Агінскім і пададзены 15 траўня 1811 г. цару Аляксандру I у выглядзе памятнай запіскі. Гл.: Адраджэнне: Гістарычны альманах. Вып. 1. Мінск: Універсітэцкае, 1995. — *А.С.*

расейскага праваслаўя адкрывала магчымасьць, з аднаго боку, для паступовага прышчапленьня расейскасьці самай вялікай групе беларускіх вернікаў, з другога боку, пакідала ў ідэйнай ізаляцыі пераважна каталіцкую шляхту. Важную ролю ў ажыцьцяўленьні палітыкі грамадзкай дэзынтэграцыі адыгрывала распальваньне рэлігійных супярэчнасьцяў паміж праваслаўным і каталіцкім насельніцтвам, што дасягалася ў тым ліку шляхам закрыцьця і разбурэньня каталіцкіх касьцёлаў у мяшаных асяродзьдзях альбо іх ператтварэньня ў праваслаўныя цэрквы. Стымуляваўся і пераход каталікоў у праваслаўе.

У выніку гэтых дзеяньняў у другой палове XIX ст. адбыліся пэўныя зрухі ў канфэсійнай структуры насельніцтва Беларусі: павялічылася доля праваслаўных, затое паменшала каталікоў. Паводле зьвестак першага агульнарасейскага перапісу насельніцтва, у 1897 г. на тэрыторыі Беларусі (у сучасных яе межах) 70,4% жыхароў належала да Праваслаўнай, 13,5% — да Каталіцкай царквы, 14,0% вызнавала юдаізм. Трэба адзначыць, што такая канфэсійная структура насельніцтва, хоць і сфармавалася пад націскам уладаў, набыла, тым ня меней, трывалы характар, пра гэта сьведчыць, у прыватнасьці, і той факт, што пасьля абвяшчэньня ў 1905 г. царскага маніфэсту аб свабодзе сумленьня толькі каля 50 тыс. жыхароў Менскай, Гарадзенскай і Віленскай губэрняў перайшло з праваслаўя ў каталіцтва[5]. Гэта не прынесла істотных зьменаў у канфэсійным складзе насельніцтва краю, дзе каталікі па–ранейшаму заставаліся толькі колькасна невялікай рэлігійнай меншасьцю.

Ува ўмовах нарастаньня пасьля 1830 г. ідэалягічнай канфрантацыі шляхце заставалася ўсё менш і менш месца для культывацыі традыцыйнай “літоўскай” палітычнай сьвядомасьці, якая ўжо не адпавядала тагачасным рэаліям. Гэта прымушала яе пераглядзець адвечныя каштоўнасьці, асабліва ў дачыненьні да нацыянальнага самавызначэньня. Пры такім стане рэчаў, калі не лічыць безаблічных апартуністкіх пазыцыяў, пачалі вымалёўвацца дзьве тэндэнцыі. Частка шляхты ў выніку культурнай паланізацыі і расейскай палітыкі яе адчужэньня ад “адзінакроўнага народу” прыняла польскую нацыянальную сьвядомасьць, стала палякамі. Затое іншая частка, трымаючыся традыцыі своеасаблівасьці сваёй Бацькаўшчыны і адчуваючы роднаснасьць з простым народам, схілялася да беларускай ці літоўскай нацыянальнай сьвядомасьці.

Цяжка нават прыблізна вызначыць прапорцыі гэтых пазыцыяў. Паводле зьвестак першага агульнарасейскага перапісу насельніцтва, на парозе XX ст. у Беларусі (у цяперашніх яе межах) пражывала 153 тыс. чальцоў шляхецкіх сем’яў. Сярод іх 43,3% лічыла роднай беларускую мову, 33,8% — польскую, а 19,1% — расейскую[6]. І хоць у тагачасных умовах было б памылкова атаясамліваць родную мову з палітычнай сьвядомасьцю, тым ня менш гэтыя дадзеныя паказваюць як на беспадстаўнасьць поглядаў аб амаль поўнай спальшчэласьці беларускай шляхты, так і на існаваньне значнай патэнцыйнай грамадзкай базы для разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху. У канцы XIX ст. Эдвард Вайніловіч, буйны землеўладальнік у Беларусі і старшыня Сельскагаспадарчага таварыства ў Менску, зьвяртаўся з падзякаю да Аляксандра Ельскага за прысланую беларускую кніжку і так выказваўся пра стаўленьне гэтай шляхты да сваёй мовы:

> Шаноўны пане Дабрадзею, я перакананы, што гэтыя беларускія брашуркі борзда разыйдуцца <…>, калі наша шматлікае абшарніцтва зьбярэцца на пасяджэньні Сельскагаспадарчага таварыства ў Менску: кожны з нас засынаў у калысцы пад народныя песьні нашых нянек і выхавацелек. Кожны на гэтай мове <…> гаворыць зь мясцовым народам, і ўсе старадаўнія радавыя дакумэнты звычайна напісаныя на гэтай мове: таму чэсьць Шаноўнаму пану, што пасьля доўгай пярэрвы да нас адазваліся так па–свойску[7].

[5] Католицизм в Белоруссии. Минск, 1987. С. 37.

[6] Церашковіч П.У. Асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускага этнасу ў эпоху капіталізма // Весці Акадэміі навук Беларускай ССР. 1986. № 5. Серыя грамадскіх навук. С. 94.

[7] Ліст Э. Вайніловіча да А. Ельскага ад 12.05.1896 г. Галоўны архіў старадаўніх актаў у Варшаве (далей — AGAD), zesp. Prozorów i Jelskich, sygn. 140, k. 141—144.

У такіх умовах разьбежнасьці ў нацыянальным самавызначэньні ў землях былога Вялікага Княства Літоўскага былі зьявай досыць частай нават у межах аднае сям'і. Пра гэта сьведчыць польска–літоўскі выбар Ромэраў, Тышкевічаў, Мілашаў і польска–беларускі — Скірмунтаў, Кастравіцкіх, Багушэвічаў ды многіх іншых. Сярод пазьнейшых польскіх, беларускіх і літоўскіх гісторыкаў, заклапочаных сваімі нацыянальнымі інтарэсамі, гэтае пытаньне асьвятлялася вельмі эмацыйна, тады як у сямейных колах яно вырашалася звычайна досыць гладка, і толькі калі–нікалі паўставалі драматычныя або гумарыстычныя сытуацыі. Адну зь іх намаляваў Юзаф Мацкевіч:

Бо цёця Пафця выйшла замуж за ліцьвіна яшчэ тады, калі ўсе жыхары б. Вялікага Княства Літоўскага самі называлі сябе ліцьвінамі. Але пакуль падрастаў Генрык, іх ужо пачалі называць "літваманамі". Тады ліцьвіны пачалі зваць сябе палякамі, а літваманы — ліцьвінамі. Справа аказалася досыць заблытаная, а часам непрыемная. "Мама, — спытаў ён, — ці наша цёця Пафця — літваманка, ці яна ліцьвінка–полька, але не ліцьвінка?.."[8]

У параўнаньні з такой падвойнай арыентацыяй (польска–літоўскай і польска–беларускай) выбар трох кірункаў братамі Іваноўскімі быў зьявай бадай выключнай і на першы погляд — нелягічнай. Цяжка сабе ўявіць, каб адна сям'я была адначасова траістага паходжаньня. Перад намі паўстае праблема разуменьня, якім чынам на парозе XX ст. адбыўся падзел тых каштоўнасьцяў, што некалі ўтваралі непадзельную цэласьць. Варта прыгадаць у гэтым кантэксьце твор Міколы Гусоўскага, паэты XVII ст., "Carmen de bisonte" ("Песьня пра зубра"), перакладзены з лаціны на польскую, беларускую і літоўскую мовы і залічаны сур'ёзнымі гісторыкамі літаратуры ўсіх трох народаў ува ўласны культурны набытак. Трапна заўважыў Юзаф Мацкевіч, што на парозе новай эпохі ў Вялікага Княства як гістарычнай цэласьці не было пераемнікаў[9]. У адрозьненьне ад гэтага, лёсы трох нацыяў, трох культур складваліся самастойна, так, як тое выбралі нашчадкі вялікалітоўскіх радоў. Прыгледзьмася да гэтай эвалюцыі на прыкладзе роду Іваноўскіх.

Самыя раньнія дакумэнтальныя зьвесткі з гісторыі гэтай сям'і сягаюць сярэдзіны XVII ст. і зьвязаны з асобай Крыштапа Іваноўскага, патомнага ўладара маёнткаў Пурпішкі і Гайжуны ў Вількамірскім павеце ў Літве[10]. Аднак тое, што Крыштап жыў на тэрыторыі спрадвечнай Літвы, яшчэ ня значыла, што яго сям'я была літоўскага паходжаньня. Этымалёгія прозьвішча паказвае, што заснавальнікам роду павінен быць нейкі Іван, а гэта сьведчыць пра яго беларускае паходжаньне. Але ўжо ў XVI ст. можна было сустрэць Іваноўскіх ад Ковеншчыны да Менску і Воршы, гэта значыць, на розных абшарах Вялікага Княства, дзе за дзяржаўныя заслугі іх продкі атрымлівалі зямельныя надзелы і пасады. Іх фамільнай эмблемай стаў герб Рагач, які з Польшчы быў перанесены ў ВКЛ у эпоху Люблінскай уніі і, паводле апісаньня Война Каяловіча–Віюка, езуіцкага пісьменьніка XVII ст., геральдыка і прафэсара Віленскай акадэміі, уяўляў сабой "...алені рог у першым, белым баку поля і рог зубрыны леваруч, у полі чырвоным, а ў шаломе з правага боку — рог зубрыны, зь левага — алені"[11].

Герб з такімі сымбалямі належаў ня толькі ўжо згаданаму Крыштапу Іваноўскаму, але і Міхалу Іваноўскаму, менскаму гродзкаму старасту, што ў тагачасных умовах сьведчыла пра роднаснасьць беларускай і літоўскай галіны роду. Напэўна, гэтая роднаснасьць спрычынілася да таго, што менавіта ў Літве Міхал шукаў ратунку ад маскоўскага нашэсьця і ў 1669 г. адбудаваў разбураны маскалямі касьцёл Вітаўта Вялікага ў Коўне. Пра

[8] Mackiewicz J. Pod każdym niebem. Londyn, 1964. S. 15.
[9] Mackiewicz J., Toporska B. Droga Pani. Londyn, 1984. S. 41.
[10] Bonecki A. Herbarz polski. T. VIII. Warszawa, 1905. S. 72.
[11] Piekosiński F. Studia, rozprawy i materiały z dziedziny historii polskiej i prawa polskiego. T. II; ks. Wojciecha Kojałowicza Herbarz rycerstwa W. X. Litewskiego, tak zwany Compendium. Kraków, 1897. S. 264.

гэты ўчынак і па сёньняшні дзень сьведчыць мармуровая дошка ў самім касьцёле, а надпіс на ёй вянчае апісаны Каяловічам герб Рагач. Істотную дэталь, якая кідае сьвятло на генэалёгію гэтай сям'і, удалося высьветліць Марыі Б. Тапольскай: у Міхала Іваноўскага захоўвалася Эвангельле, выдадзенае ў 1644 г. віленскім праваслаўным брацтвам Сьвятога духа[12]. А гэта сьведчыць пра патрэбу ды ўменьне чытаць кірыліцай, што выключна рэдка сустракалася сярод карэнных літоўцаў, якія ад паганства перайшлі наўпрост да каталіцызму.

Шмат зьвестак пра ўдзел Іваноўскіх у грамадзкім жыцьці Вялікага Княства можна знайсьці ў крыніцах XVIII ст. Асаблівай увагі заслугоўвае Менскае староства, якое доўгія дзесяцігодзьдзі заставалася ў руках гэтай сям'і. Апрача згаданага Міхала, гэтую пасаду з 1745 г. займаў Язэп Іваноўскі, які раней быў менскім гараднічым і даводзіўся родным братам менскаму гродзкаму судзьдзю, што памёр да 1741 г. Пасьля сьмерці Язэпа гродзкім старастам у Менску стаў яго сын Ігнат, які займаў гэтую пасаду амаль дваццаць гадоў, да канца існаваньня Рэчы Паспалітай[13]. Захаваліся сьведчаньні і пра Міхала Іваноўскага, ковенскага чашніка, якога Аўгуст III прызначыў падкаморым (камэргерам) каралеўскага двара; а таксама — пра Антона, які падпісаў акт выбраньня Станіслава Аўгуста ад Вількамірскага павету[14]. Таму на парозе XX ст. маладыя Іваноўскія маглі прасачыць як беларускія, гэтак і літоўскія карані свайго роду, хоць іх продкі служылі адной бацькаўшчыне, дзе праблема паходжаньня ў такім аспэкце звычайна не паўставала.

Тое самае датычыла і сямейнай рэзыдэнцыі. Ужо згаданы Крыштап, апрача Пурпішак і Гайжунаў у карэннай Літве, меў яшчэ фальварак Забалоцьце ў тагачасным Навагрудзкім ваяводзтве. Гэты фальварак амаль да канца XVIII ст. быў сядзібай продкаў Вацлава. У 1720 г. яго ўспадкаваў сын Крыштапа, Міхал, які ў 1750 г. перадаў яго сыну Дамініку, той, у сваю чаргу, у 1776 г. пакінуў Забалоцьце сваім сынам Язэпу і Людвіку, а яны прадалі яго ў 1790 г. князю Радзівілу. Гэтак напярэдадні ўпадку Рэчы Паспалітай продкі Вацлава пазбыліся спрадвечнай радавой маёмасьці. Неўзабаве сын Язэпа, Тамаш, за частку спадчыны, што перайшла да яго, купіў фальварак Руда Яворская ў Слонімскім павеце. Маёнтак, відаць, быў ня дужа вялікі, бо два яго сыны — Вінцэнт і Станіслаў — пазьней не маглі падзяліць яго міжсобку. Паводле адвечнага звычаю, ён перайшоў у спадчыну да старэйшага сына, Вінцэнта, Станіславу ж давялося пакласьціся на волю лёсу.

Станіслаў быў дзедам Вацлава. Нарадзіўся ён у 1819 г. у Рудзе Яворскай, ажаніўся з Антанінай, адзінай дачкой Юр'я Андрэевіча Рылы–Быкоўскага, уладальніка фальварку Лябёдка ў воласьці Старыя Васілішкі Лідзкага павету Віленскай губэрні. У адрозьненьне ад Іваноўскіх, якія не сядзелі доўга ў адным гнязьдзе, Быкоўскія гаспадарылі ў Лябёдцы колькі стагодзьдзяў. Паводле "Геаграфічнага слоўніка Каралеўства польскага і іншых славянскіх краін", гэты фальварак пад назвай Дварэц 07.11.1510 г. быў дараваны прывілеем Жыгімонта старога яго дваранін, Івашку Рылу–Быкоўскаму, і з таго часу, пераходзячы ад бацькі да сына, заставаўся ў валоданьні гэтай сям'і. У сярэдзіне XIX ст. ён займаў 666 маргоў (каля 370 га), пасьля вызваленьня сялян з–пад прыгону ў 1861 г. у ім засталося 325 маргоў (каля 180 га). Гэты адносна невялікі маёнтак і атрымала ў спадчыну Антаніна і да самай сваёй сьмерці заставалася яго ўладальніцай[15].

Дзеля гэтага Станіслаў вымушаны быў пагадзіцца на другарадную ролю ў Лябёдцы. Яго сацыяльная і маёмасная пазыцыя была тыповая для сярэдняй шляхты і мала чым

---

[12] Topolska M.B. Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984. S. 233.

[13] Boniecki A. Op. cit. S. 71; Matuszewski M. Diariusz życia mego. T. I. Warszawa, 1986 (гл. сьпіс імёнаў) // AGAD, zesp. Radziwiłłów, dz. V.

[14] Boniecki A. S. 71.

[15] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. V. Warszawa, 1884. S. 111.

**Радавод Іваноўскіх**

| Імя | Рэзыдэнцыя і час валоданьня |
|---|---|
| Крыштап | Пурпішкі, Гайжуны, Забалоцьце, XVIII ст. |
| Міхал | Забалоцьце, 1730—1750 г. |
| Дамінік | Забалоцьце, 1750—1776 г. |
| Язэп | Забалоцьце, 1776—1790 г. |
| Тамаш | Руда Яворская, 1790 (?) — ... |
| Станіслаў | Лябёдка[a] |
| Леанард | Лябёдка, каля 1880—1919 г. |
| Юры, Вацлаў, Тадэвуш, Галена, Станіслаў | |

[a] Уласнасьць жонкі Антаніны

*Крыніца:* Boniecki A. Herbarz polski. T. VIII. Warszawa, 1905. S. 72; Ivanauskas T. Memuarai [б. м. в. — машынапіс у сямейным архіве].

розьнілася ад сытуацыі, пры якой яго продкі жылі яшчэ колькі дзесяцігодзьдзяў таму назад. Зьместам доўгага жыцьця Станіслава (памёр у 1900 г.) быў клопат аб гаспадарцы і гарачае імкненьне да павелічэньня маёмасьці, што паўплывала, між іншым, на яго палітычны апартунізм. Бурлівыя гады паўстаньня 1863 г. ён праседзеў у Лябёдцы, унікаючы незалежніцкай дзейнасьці. Такім чынам, ён пазьбег высылкі і канфіскацыі жончынай маёмасьці. Пасьля заўчаснай сьмерці Антаніны (яна памерла ў 1852 г., маючы 35 гадоў) маёмасныя меркаваньні схілілі яго да шлюбу з Каралінай Клімантавічанкай, а пасьля яе сьмерці ў 1856 г. ужо 58–гадовы Станіслаў ажаніўся трэці раз з дужа маладзейшай за сябе Станіславай Губарэвічанкай з суседняга фальварку Галавічполь. У выніку, Лябёдка павялічылася на частку зямель гэтага фальварку.

Адзіным спадкаемцам Станіслава і Антаніны быў народжаны 02.11.1845 г. Леанард, які пасьля сьмерці маці стаў паўнапраўным гаспадаром Лябёдкі. Цяжка меркаваць, у якой ступені бацька зьвязваў будучыню сына з гэтым маёнткам, прынамсі адукацыя, якую ён вырашыў даць сыну, не веставала вялікіх надзеяў на тое, што ён будзе займацца сельскай гаспадаркай. Ён накіраваў Леанарда спачатку ў Віленскую гімназію, пасьля — у Пецярбурскі тэхналягічны інстытут, які той скончыў у 1868 г., атрымаўшы ступень інжынэра–тэхноляга. Затым, аж да 1891 г., Леанард працаваў на будоўлях прамысловых прадпрыемстваў у Сібіры, на Ўрале ды ў іншых аддаленых рэгіёнах Расеі, у тым ліку недзе каля 15 гадоў правёў у мясцовасьці Краснае Новахапёрскага павету Варонескай губэрні. На той час гэта быў вельмі прыбытковы занятак.

У 1874 г. два літоўскія будрысы — Леанард Іваноўскі і яго сябар Вацлаў Карафа–Корбут — пабраліся шлюбам зь сёстрамі Ядвігай і Галенай Райхелянкамі з ваколіц Пятркова. Але дзяўчаты не былі стопрацэнтнымі ляшкамі: іх бацька, Амон барон фон Райхель, паходзіў з Эльзасу, у мінулым — кадравы вайсковец, які пасьля выхаду ў адстаўку купіў сабе маёнтак Замосьце каля Пятркова, затое матка паходзіла з дому Хржаноўскіх з Трамбоўлі. Сёстры былі выхаванкамі курсаў прафэсара Баранецкага ў Кракаве і, як на тыя часы, былі добра адукаваныя. Леанард атрымаў за жонкай у якасьці пасагу частку маёнтку Райхеля ля ракі Вальборка каля Вальбромя. Але чужая старана яго ня вабіла. Ён прадаў гэтую маёмасьць і за выручаныя грошы павялічыў гаспадарку ў Лябёдцы.

Але і пасьля жанімства Леанард не асеў у Лябёдцы на стала. Разам з жонкай ён вярнуўся ў Краснае, пасьля 1891 г. некалькі гадоў правёў у Варшаве, нарэшце, найпазьней у 1899 г., уладкаваўся ў Пецярбургу. Тут ён дасягнуў вяршыні сваёй прафэсійнай кар'еры: стаў правадзейным дзяржаўным раднікам, сябрам Тэхналягічнага камітэту Галоўнага акцызнага ўпраўленьня і кіраўніком яго інвэстыцыйнага аддзелу, а таксама —

чальцом Дзяржаўнай рады па справах харчовых прадуктаў[16]. Леанард часта выяжджаў за мяжу, у тым ліку арганізоўваў расейскія эканамічныя выставы ў Парыжы, Турыне і Бэрліне. Добра ведаў некалькі моў. Супрацоўнічаў зь Дзьмітрыем Мендзялеевым, разам зь ім езьдзіў у Лёндан, дзе ў Каралеўскім хімічным таварыстве перакладаў на ангельскую мову яго даклад аб пэрыядычнай сыстэме хімічных элемэнтаў[17]. Пра тое, наколькі яго прыцягвала прафэсійная кар'ера, вымоўна сьведчыць той факт, што толькі першая сусьветная вайна прымусіла амаль 70–гадовага Леанарда адмовіцца ад дзяржаўнай службы і вярнуцца ў Лябёдку, на гэты раз — назаўсёды.

Лябёдка была іншым захапленьнем Леанарда. Тут ён праводзіў кожную вольную хвіліну, аддаваў шмат грошай і ўвагі на разьвіцьцё і мадэрнізацыю сваёй гаспадаркі. Паступова ён павялічыў яе да 500 га, задрэнаваў глебы і лугі, засадзіў лесам няўдобіцы, увёў у дзеяньне ўсе асноўныя сельскагаспадарчыя машыны, пабудаваў паравы млын. Асаблівую ўвагу надаваў ён садоўніцтву, у 1868 г. заклаў матачны сад, затым — расаднік, нарэшце, у 80–х г. — вялікі 20–гектарны гандлёвы сад. Усе тры аддзелы ўзаемадапаўнялі адзін аднаго: гатункі, што прайшлі выпрабаваньне ў экспэрымэнтальным садзе, памнажаліся ў расадніку і пасьля пераходзілі ў гандлёвы. Такім чынам, да першай сусьветнай вайны ў садовай гаспадарцы Леанарда было выпрабавана каля 400 гатункаў яблынь, 100 — груш і 80 — сьліваў, вішняў, чарэшань. Садавіну зь Лябёдкі вывозілі на пецярбурскія і маскоўскія рынкі, а на ўсерасейскіх выставах яна двойчы атрымлівала залаты мэдаль[18]. У гонар яго заслуг Варшаўскае садаводчае таварыства абрала Л. Іваноўскага сваім старшынём. У першыя гады XX ст. у Лябёдцы была завершаная будоўля новай сямейнай рэзыдэнцыі.

Апрача рэалізацыі сямейных амбіцыяў, дзейнасьць Леанарда была нацэленая на тое, каб ператварыць Лябёдку ў цэнтар агратэхнічнага прагрэсу, які б ахопліваў прылеглыя абшары Віленскай і Гарадзенскай губэрняў. Дзеля разьвіцьця садоўніцтва ў 1888 г. Л. Іваноўскі распачаў продаж прышчэпаў садовых дрэваў, прыстасаваных да мясцовых кліматычна–глебавых умоў. Ён арганізоўваў выставы збожжа, гародніны, садавіны і свойскай жывёлы, каб заахвоціць земляробаў да паляпшэньня эфэктыўнасьці сваёй гаспадаркі. Дзеля гэтага Леанард здабываў сродкі ў міністэрстве сельскае гаспадаркі на ўзнагароды ўдзельнікам выставы, галоўным чынам — малазямельным сялянам. Ён арганізоўваў агранамічныя кансультацыі, дбаў пра забесьпячэньне земляробаў найлепшымі гатункамі насеньня, саджанцаў і жывёлы на завод. Маладых сялян прымалі ў маёнтку на практыку паляводамі, жывёлаводамі, садаводамі і пчалярамі. У 1913 г. меркавалася адкрыць курсы перапрацоўкі малака. Дзеля гэтага Леанард заваяваў вялікі аўтарытэт і павагу сярод мясцовых земляробаў.

Можна дапускаць, што з гледзішча нацыянальнай сьвядомасьці Леанард належаў да апошняга пакаленьня беларускай шляхты, якое не разьмяняла яшчэ традыцыйнага паняцьця вялікалітоўскай бацькаўшчыны на тры мадэрныя нацыянальныя опцыі. Дый, зрэшты, жыў ён у тыя часы, калі і не паўставала неабходнасьці вызначаць мадэрную нацыянальнасьць. Закранаючы гэтае пытаньне, яго сын Тадэвуш напісаў у сваіх успамінах, што бацька лічыў сябе за ліцьвіна ў гістарычным сэнсе[19].

Гэта вынікала і зь яго стаўленьня да нацыянальных праблемаў на рубяжы XIX і XX ст. Гэтак, ніводзін з дасьледчыкаў польскага руху ў Расеі ня згадвае пра які–небудзь удзел Леанарда ў працы польскіх арганізацыяў, няма згадак і пра тое, каб ён цікавіўся літоўскім ці беларускім нацыянальным рухам. Ён нязьменна аддаваўся перш за ўсё прафэсійнай кар'еры і сваёй Лябёдцы. Гэтак сама, як яго бацька Станіслаў і шмат якія

[16] Весь Петербург на 1911 г.

[17] Ivanauskas T. Gyvenimas ir veikla. Vilnius, 1976. S. 7.

[18] Cennik szczepów owocowych Wacława Iwanowskiego w Bojarach. Warszawa, бяз даты. S. 3—4.

[19] Ivanauskas T. Memuari. Машынапіс, які належыць сям'і ў Літве, бяз даты.

іншыя прадстаўнікі шляхты, ён вызначаўся палітычным апартунізмам. Польская мова ў доме зусім не перашкаджала гэткай прыцыповай пазыцыі.

Нічога невядома аб пазыцыі жонкі Леанарда, Ядвігі, якая, зрэшты, мела ў галаве шмат больш канкрэтных клопатаў. У сям'і сцьвярджалі, што, нягледзячы на сваё польска–нямецкае паходжаньне, яна была цалкам спальшчэлая. Аднак гэта цяжка назваць вычарпальнай падставай для вынясеньня адназначнай высновы: у 1915 г., пасьля таго, як немцы занялі Віленскую губэрню, яе брат борзда адчуў нямецкую кроў і старанна прыслужваўся акупантам[20].

Нельга, аднак, абыйсьці маўчаньнем больш позьнія ацэнкі нацыянальнай сьвядомасьці Леанарда, пакліканыя растлумачыць нацыянальны выбар яго сыноў. Так, Юры Іваноўскі, які лічыў сябе палякам і быў зацікаўлены ў тым, каб падкрэсьліць польскія карані сваёй сям'і, пісаў наступнае:

> Мы паходзім з Шчучынскага павету, з ваколіцы, дзе жыве беларускі люд, сям'я наша асела колькі стагодзьдзяў таму і заўсёды лічыла сябе за палякаў. Бацька–інжынэр большую частку жыцьця правёў у Расеі, аднак заўсёды адчуваў сваю польскасьць і браў удзел у польскім грамадзкім жыцьці[21].

З дапамогай маленькай рэдакцыйнай купюры дыямэтральна супрацьлеглую думку прывялі выдаўцы ўспамінаў Тадэвуша Іваноўскага: яны выразалі тую частку фразы, дзе гаварылася, што Леанард лічыў сябе за ліцьвіна ў *гістарычным сэнсе*. Так выказваньне Тадэвуша набыло зусім іншы сэнс:

> Леанардас Іванаўскас лічыў сябе ліцьвінам, хоць па–літоўску гаварыць ня ўмеў. Такіх літоўскіх інтэлігентаў было ў той час нямала. Л. Іванаўскас, хоць і выхоўваўся пад уплывам польскай культуры, не паддаваўся дэнацыяналізацыі, змагаўся з апалячваньнем і вучыў сваіх дзяцей змагацца з прыніжэньнем ліцьвінаў і Літвы[22].

Адно толькі супастаўленьне гэтых цытат ужо магло б выклікаць усьмешку, калі б ня тое, што акурат гэтак ставіцца да спадчыны Вялікага Княства Літоўскага шмат польскіх і літоўскіх аўтараў. Для адных найважнейшым крытэрам ацэнкі нацыянальнай пазыцыі ёсьць польская мова і культура, для іншых — гістарычная назва “ліцьвін”. Для поўнага камплекту падобных ацэнак пакуль бракуе беларускай вэрсіі, але няцяжка ўявіць яе прыкладны зьмест. Гэта было б трыё накшталт ужо прыгаданага выпадку Міколы Гусоўскага і яго “Carmen de bisonte”.

У 1876—1887 г. у сям'і Леанарда і Ядвігі нарадзілася пяцёра дзяцей: Юры, Вацлаў, Тадэвуш, Галена і Станіслаў. Паводле мэтрычных запісаў рыма–каталіцкай парафіі ў Старых Васілішках, Юры нарадзіўся ў Красным, а рэшта дзяцей — у Лябёдцы. З гэтага вынікае, быццам кожны раз перад родамі маці пераадольвала сотні кілямэтраў ад Краснага да свайго маёнтку. Гэта здаецца малаверагодным, тым болей, што паміж датамі народзін і хрышчэньня малых Іваноўскіх існуе вялікая разьбежнасьць: апошняе адбывалася пераважна падчас летняга адпачынку, калі сям'я параяжджала ў Лябёдку. З гэтага вынікае, што калі ня ўсе, дык большасьць дзяцей пабачыла сьвет у Красным Варонескай губэрні, дзе жылі бацькі. Гэтае несупадзеньне з сапраўдным станам тлумачыцца найперш традыцыяй, паводле якой месцам нараджэньня дзяцей лічылася сямейнае гняздо, а не часовае прыстанішча бацькоў.

Аднак да выхаваньня дзяцей Леанард ставіўся неабыякава. Ён вызначыў яго прынцы-

[20] Тамсама.
[21] Iwanowski J. Dialog polsko–litewski. // Kultura. Paryż. 1956. № 1(99).
[22] Ivanauskas T. Gyvenimas… P. 8.

**Даты народзін і хрышчэньня малых Іваноўскіх (паводле старога стылю)**

| | Дата народзінаў | Дата хрышчэньня | Хросныя бацькі |
|---|---|---|---|
| Юры | 29.01.1876 | 22.06.1876. | Станіслаў Іваноўскі і Флярэнтына Райхель |
| Вацлаў | 25.05.1880 | 28.06.1881 | Надворны раднік, д–р мэд. Ян Петрашкевіч і Галена Корбуціха |
| Тадэвуш | 16.12.1882 | 22.07.1884 | Надворны раднік, д–р мэд. Уладзіслаў Вышынскі і Станіслава Іваноўская |
| Галена | зьвесткі адсутнічаюць | | |
| Станіслаў | 04.12.1887 | 26.12.1888 | Юры Іваноўскі і Галена Корбуціха |

*Крыніца*: Мэтрычныя кнігі парафіі Старыя Васілішкі.

повы кірунак у духу традыцыяў Вялікага Княства. Рэалізавала яго перадусім цётка Галена Корбуціха, сястра Ядвігі, якая пасьля заўчаснай сьмерці мужа стала жыла разам з Іваноўскімі. Яна абудзіла ў Вацлава і яго братоў зацікаўленьне да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і паўплывала на фармаваньне іх гістарычнай сьвядомасьці. Мастацкай асновай гэтага ўсьведамленьня былі ў першую чаргу паэмы А. Міцкевіча "Гражына" і "Конрад Валенрод", а таксама творчасьць "літоўскага сэпаратыста" Уладзіслава Сыракомлі.

У 1891 г. сям'я Іваноўскіх пераехала з Краснага ў Варшаву і пасялілася ў кватэры на вуліцы Маршалкоўскай, 60, кв. 3. Што змусіла іх прыняць такое важнае рашэньне? Сапраўды, Леанард атрымаў тут нейкую дзяржаўную пасаду, але ён ня быў цесна зьвязаны з Варшавай. Ён часта ад'яжджаў у розныя гарады Расеі, нарэшце, на колькі гадоў асеў у Пецярбургу, тады як жонка зь дзецьмі жылі ў Варшаве. Таму можна меркаваць, што пярэбары з Краснага ў Варшаву абумовілі не інтарэсы бацькі, а жаданьне даць дзецям добрую адукацыю. Гаворка, рэч ясная, ішла не аб самім навучаньні ў гімназіі, у якой, як і ў іншых мястох Расейскай імпэрыі, выкладаньне вялося па–расейску, але аб фармаваньні дзяцей у польскім асяродзьдзі. Бо тут існавалі лепшыя ўмовы, каб прышчапіць ім імунітэт супраць русіфікацыі, якую ўважалі за найбольшую пагрозу сямейным традыцыям.

У пачатку 90–х г. Вацлаў паступіў у V мужчынскую гімназію, якая месьцілася ў прыватнай камяніцы на рагу вуліц Маршалкоўскай і Пекнай, і скончыў яе ў чэрвені 1899 г. Аўгуст Іванскі, аднаклясьнік Вацлава, так характарызаваў вучнёўскае асяродзьдзе ды атмасфэру, што панавала ў школе:

> Вучні V гімназіі былі пераважна сынамі настаўнікаў, прафэсараў, адвакатаў, лекараў, судзьдзяў — адным словам, прадстаўнікоў гарадзкой інтэлігенцыі. Памешчыцкія сыны складалі меншасьць. Сялянскіх сыноў, прынамсі ў маёй клясе, не было зусім; жыдоў <...> няшмат, маскалёў яшчэ меней. Узровень заможнасьці сярод маіх аднаклясьнікаў быў досыць высокі. Не было, бадай, аніводнага бедняка. <...> Паміж вучнямі былі найлепшыя сяброўскія стасункі. Мы стойка супраціўляліся безупынным нападкам школы на нашу нацыянальнасьць, рэлігію і нацыянальную годнасьць. Выпадкі даносаў, калі і здараліся спарадычна ў іншых клясах, заўсёды клеймаваліся і выпальваліся гарачым жалезам пагарды і бязьлітаснага байкоту ня толькі самога вінаватага, але і кожнага, хто толькі хоць бы крыху салідарызаваўся зь ім. Заўсёды і паўсюль панавала здаровая атмасфэра салідарнасьці[23].

У гімназіі Вацлаў выявіў надзвычайныя здольнасьці. Аўгуст Іванскі, які залічаў Іваноўскага ў вузкае кола аднаклясьнікаў, зь якімі яго зьвязвала "вельмі цесная дружба", пісаў аб ім наступнае:

> Змалку быў ён абдораны быстрым розумам і featured разнабаковымі здольнасьцямі. Яшчэ ў гімназійныя часы ён перакладаў *proprio motu* (з уласнай ініцыятывы — *лац.*) адзін з плятонаўскіх дыялёгаў,

[23] Iwański A. (senior). Pamiętniki 1832—1876; Iwański A. (junior). Wspomnienia 1881—1939. Warszawa, 1968. S. 301—302.

а пазьней яшчэ доўгі час не расставаўся з Гамэрам, якога свабодна чытаў у арыгінале[24].

Змалку Вацлаў вучыўся нямецкай і францускай моў, якімі валодаў як вусна, так і пісьмова. Вялікую, хоць не заўсёды ўдалую, цікаўнасьць праяўляў у галіне хіміі. Яшчэ ў трэцяй клясе гімназіі Вацлаў паспрабаваў самастойна зрабіць набой для дубальтоўкі і пры гэтым страціў другі і трэці палец на правай руцэ. У іх памяць у Лябёдцы пасадзілі два клёны, а тры асталыя паслужылі матывам для выбару пазьнейшага псэўданіму — “Вацюк Тройца”. Вялікі ўплыў на фармаваньне характару Вацлава аказаў бацька, які падчас вакацыяў у Лябёдцы на сваёй гаспадарцы вучыў сына асновам добрай працы.

Патрыятычная атмасфэра, якая панавала ў V гімназіі, узьдзеяла на станаўленьне асобы яе выхаванцаў. Шмат хто зь іх адыграў важную ролю ў барацьбе за незалежнасьць Польшчы і ў розных галінах жыцьця адроджанай дзяржавы. Назавём хаця б Уладзіслава і Станіслава Грабскіх, Уладзіслава Татаркевіча, Тадэвуша Катарбінскага, Марцэля Гандэльсмана, Казімежа Саснкоўскага альбо біскупа Зыгмунта Лазінскага. У такой атмасфэры гадаваліся Вацлаў Іваноўскі і яго браты. Адсюль яны вынесьлі пачуцьцё абавязку грамадзкай дзейнасьці, тут адбылося іх нацыянальнае самавызначэньне. У асяродзьдзі сяброў выбар Вацлава меў прысмак сэнсацыі. Іванскі, успамінаючы гімназійныя гады, называў гэты выбар “скрайнім беларускім нацыяналізмам” і “вычварэньнем”, якое дзіўным чынам кантраставала з клясычнымі густамі яго прыяцеля[25]. Аднак гэта ня выклікала ні аслабленьня іх прыяцельскіх дачыненьняў, ні практычных наступстваў, бо гэткіх “нацыяналістаў” у гімназіі болей не было.

Ува ўмовах бурлівага разьвіцьця нацыянальных рухаў ува Ўсходняй Эўропе на пачатку XX ст. гэтае самавызначэньне было непазьбежным. Традыцыйная пазыцыя продкаў сталася для маладых Іваноўскіх нелягічнаю і непрыдатнаю. Яны мусілі вырашыць, да якой нацыянальнай супольнасьці хочуць належаць: польскай, беларускай або літоўскай. Не адчуваючы катэгарычнай волі бацькоў, яны вызначаліся наконт гэтага цалкам добраахвотна на падставе ўласных развагаў, на якія ўплывала агітацыя цёткі Галены, сямейная сытуацыя і досьвед, атрыманы ў беларускім (Лябёдка), расейскім (Краснае) і польскім (Варшава) асяродзьдзі.

Польская сьвядомасьць Юр’я была наступствам культурнай палянізацыі сям’і. Гэта быў фактар вялікай сілы, так што выбар Юр’ем гэтай нацыянальнасьці быў зьявішчам вельмі натуральным і не вымагаў асаблівага інтэлектуальнага высілку. Наадварот, ён нават стымуляваўся як асяродзьдзем беларускай і літоўскай шляхты, так і польскай інтэлігенцыяй. Такім чынам, Юры плыў з агульным струмянём, заплюшчваючы вочы на мінуўшчыну, якую ведаў ня горш за Тадэвуша і Вацлава. Ён меў права яе ігнараваць, але не павінен быў апэляваць да яе і падаваць яе ў перакручаным выглядзе. Да канца свайго жыцьця ён трымаўся перакананьня, што верхавіну грамадзтваў у Беларусі і Літве складалі палякі, якія адыгралі ролю натхняльнікаў беларускага і літоўскага нацыянальнага адраджэньня. Наймалодшы брат, Станіслаў, таксама выбраў польскасьць, але ў адрозьненьне ад Юр’я зрабіў гэта моўчкі, без спасылак на польскае паходжаньне продкаў.

Беларускае самавызначэньне Вацлава і літоўскае Тадэвуша мела супольную перадумову. Тадэвуш сьцьвярджаў, што на яго выбар дужа паўплывала прышчэпленае цёткай Галенай Корбуцiхай захапленьне Вялікім Княствам Літоўскім, а яшчэ больш — Варшава, дзе зь яго хатняй пальшчызны сьмяяліся гімназійныя сябры. Але трэба заўважыць, што ў гэткім духу выхоўваліся ўсе маладыя Іваноўскія, усе яны гаварылі гэткай самай польскай мовай і сутыкаліся з крытыкай, але для Юр’я і Станіслава гэта ня стала перашкодай для выбару польскасьці. Значыцца, сапраўдная прычына была іншая. Вацлаў і Тадэвуш не адмаўлялі культурнай польскасьці сям’і, але адкідалі польскую нацыянальную сьвядомасьць як неадпаведную іх паходжаньню. Аднак дарога ад такога адмаўленьня да прыняцьця новых вар-

[24] Тамсама, с. 4—305.
[25] Тамсама, с. 305.

тасьцяў была яшчэ вельмі далёкая. Яны здавалі сабе справу зь няпольскага паходжаньня сваіх продкаў, з таго, што яны былі ліцьвінамі ў гістарычным сэнсе, але што з гэтага мусіла вынікаць для іх? Кім яны павінны былі стаць? Сучасным палякамі, беларусамі ці літоўцамі? Заўважым, што ні Вацлаў, ні Тадэвуш не пайшлі сьлядамі Юр'я, ня сталі падганяць мінуўшчыну пад свае перакананьні і не сьцьвярджалі, што іх продкі ўважалі сябе за сучасных беларусаў ці літоўцаў. Паўстае, урэшце, важнае пытаньне: чаму іх выбар быў не на карысьць адной нацыянальнасьці, але адзін зь іх стаўся беларусам, а другі — літоўцам?

Традыцыі і выхаваньне, бесьпярэчна, уплывалі на фармаваньне сьвядомасьці Вацлава і Тадэвуша, але не адыгралі вырашальнай ролі ў іх самавызначэньні. Настойваючы на паходжаньні як на аб'ектыўным фактары, яны ў сутнасьці не былі ў лепшым лягічным становішчы, чымся Юры, які бачыў такую аб'ектыўную прычыну ў культурнай сытуацыі сям'і. Таму можна меркаваць, што ўсе іх падставы самавызначэньня насамрэч мелі другараднае значэньне, а іх разгляд высьвятляе няшмат і толькі прыхоўвае найважнейшы матыў, які абумовіў, што браты Іваноўскія зрабілі, на першы погляд, парадаксальны выбар на карысьць розных нацыянальнасьцяў. Гэтым вядучым матывам была воля змагацца за палітычную самастойнасьць нацыяў былой Рэчы Паспалітай. Яны вынесьлі яе з прышчэпленай у бацькоўскім доме гістарычнай сьвядомасьці і згодна з уласным перакананьнем пераварылі ў тры нацыянальныя галіны, кожная зь якіх мела лягічнае абгрунтаваньне. Пры гэтым яны выкарысталі атмасфэру, якая панавала ў V гімназіі, адаптуючы яе да сваіх собскіх палітычных мэтаў. Таму Леанард не абмыліўся, выправіўшы сыноў у Варшаву.

На мяжы XIX і XX ст., калі Тадэвуш акрэсьліўся як літовец, літоўскі нацыянальны рух меў за сабой блізка дваццаці гадоў разьвіцьця і здолеў ужо выпрацаваць уласную фундамэнтальную праграмную канцэпцыю. Выстаўляючы пакуль на першы плян задачы культурнай эмансыпацыі, ён зьвяртаўся з заклікам да супрацоўніцтва ня толькі да простага люду, але і да спальшчэлых паноў. Плян моўна–культурнай інтэграцыі шляхты з простым людам быў дужа сьмелай, але не безнадзейнай задумай, для гэтага ў Літве існавалі вельмі важныя перадумовы, найперш — супольнае каталіцкае веравызнаньне, да якога належала ледзь ня ўся шляхта і просты люд, за выняткам невялічкай выспы пратэстантаў з ваколіцаў Біржаў. Абедзьве гэтыя часткі грамадзтва адчувалі на сабе пагрозу страты ўласнай веры, асабліва пасьля паўстаньня 1863 г., і разам выступалі ў іх абарону. Аднак сярод паноў мэты нацыянальнага літоўскага руху ацэньваліся па–рознаму. Шмат хто бачыў у яго памкненьнях пагрозу для польскасьці ў Літве, часта трактаванай як правінцыя колішняй Рэчы Паспалітай, і таму быў настроены варожа. Аднак сярод паноў знаходзілася і нямала прыхільнікаў гэткіх ідэяў, так што Тадэвуш мог крочыць па ўжо пратаптанай сьцежцы.

Затое Вацлаў ня мог скарыстаць нават з такога магніту, якім для Тадэвуша была канцэпцыя літоўскага руху. У XIX ст. працэс беларускага нацыянальнага адраджэньня цягнуўся надзвычай марудна і, хаця й меў патэнцыйную грамадзкую базу сярод беларускай шляхты, заставаўся ўсё ж зьявай эфэмэрнай і амаль незаўважнай. Звычайна гэта тлумачаць рэпрэсіўнай палітыкай царызму, асабліва абмежаваньнямі ў выдавецкай дзейнасьці, а таксама — адсутнасьцю нацыянальнага "П'емонту"* за мяжой[26], якім для літоўцаў была Ўсходняя Прусія, а для ўкраінцаў — Галіччына. Напэўна, гэта былі важныя акалічнасьці, аднак найважнейшай перашкодай для беларускага руху заставалася парадаксальная ідэйная сытуацыя: яго праваднікамі ў краіне, дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва, сталі галоўным чынам прадстаўнікі каталіцкай шляхты. Яны сапраўды

* П'емонтам называлі Сардынскае каралеўства, якое ахоплівала выспу Сардынія і мацерыковую вобласьць П'емонт з цэнтрам у Турыне. Незалежная італьянская дзяржава П'емонт у той ці іншай форме падтрымлівала вызвольны рух у астатніх дзяржавах, якія знаходзіліся пад уладаю Аўстрыі, папы і гішпанскіх Бурбонаў. У 1859—1860 г. пад кіраўніцтвам П'емонту пачалося стварэньне адзінага Італьянскага каралеўства (закончылася ў 1870 г.). — *А.С.*

[26] Гл. заўвагу 1 да артыкула "Прарасейскі выбар Беларусі". — *А.С.*

ўсьведамлялі сваю этнічную адметнасьць, аднак не маглі ўзьняцца па–над рэлігійным бар’ерам, рэальна ацаніць існуючае становішча і сфармуляваць агульнанацыянальную праграму культурнай і палітычнай дзейнасьці, прымальную і для адной, і для другой часткі грамадзтва, асабліва — для праваслаўнай большасьці.

Беларуская паэзія XIX ст., якая звычайна не выходзіла за рамкі этнаграфізму і сацыяльна–бытавой праблематыкі, падаванай з пазыцыі клясавай згоды памешчыцтва і сялянства, апрача абмежаванай папулярызацыі мовы, не ўплывала на гэта. Падчас паўстаньня 1863 г. зьявілася беларускамоўная агітацыйная публіцыстыка, пакліканая прыцягнуць сялян да ўзброенай барацьбы з царызмам. Аднак пры гэтым паміж прыхільнікамі кансэрватыўнага і радыкальнага крыла паўстаньня ў Літве і Беларусі не заўважалася якіх–кольвек істотных — з нацыянальнага гледзішча — ідэйных адрозьненьняў. Апрача ўзаемных супярэчнасьцяў у аграрным пытаньні, літаратура абедзьвюх плыняў ідэалізавала былую Рэч Паспалітую, выступала ў абарону Каталіцкай царквы і прапагандавала адзінства палітычных інтарэсаў Польшчы і Беларусі як яе правінцыі. Палымяны заклік Канстанціна Каліноўскага да беларускага народу змагацца за свае правы, “бо тагды толькі жыць будзеш шчасьліва, калі ўжэ Маскаля над табой ня будзе” — гэта яшчэ не незалежніцкая дэклярацыя, бо абмінае ня менш важнае пытаньне польскай гегемоніі. Нават крытыка сацыяльнай несправядлівасьці ў адозвах радыкалаў (“Мужыцкая праўда” ды інш.) мае выразную антымаскоўскую афарбоўку, аднак не закранае мясцовых паноў.

Таму беларускамоўная літаратура XIX ст. разьвівалася ў вялікай меры ў рэчышчы польскай палітычнай думкі і польскай барацьбы з Расеяй за незалежнасьць. У выніку такіх абставінаў у ёй прасочваецца рэзкая антыправаслаўная тэндэнцыя, якая значна абмяжоўвала яе пашырэньне сярод пераважаючай праваслаўнай інтэлігенцыі і, як наступства, пазбаўляла ўплыву на большую частку беларускага люду. Падобную ролю адыгрываў таксама ўжываны ў гэтай літаратуры польскі алфавіт. Усё гэта палягчала расейскае процідзеяньне і паўплывала на зьяўленьне ў другой палове XIX ст. іншага ідэйнага кірунку пад назвай “заходнерусізм”, які пры падтрымцы ўладаў спрабаваў падаваць Беларусь як спрадвечна расейскі край і абгрунтаваць расейскае панаваньне. Гэтая плынь зацягвала прадстаўнікоў беларускай праваслаўнай інтэлігенцыі, якія, нягледзячы на такую палітычную арыентацыю, шмат зрабілі ў галіне этнаграфіі, мовазнаўства, краязнаўства і гісторыі Беларусі. Усё гэта значна паўплывала на разьвіцьцё палітычнай думкі, праявай чаго ёсьць дзейнасьць беларускіх народавольцаў. У 1884 г. у выдадзеным на гектографе часопісе “Гомон” яны ўпершыню кінулі заклік аўтаноміі Беларусі ў складзе Расейскай імпэрыі.

Такім чынам, беларуская палітычная думка зь цяжкасьцю церабіла сабе дарогу сярод польска–расейскай ідэйнай барацьбы і да канца XIX ст. разьвівалася ў дзьвюх паралельных прасторах, не знаходзячы пунктаў судакрананьня. Нават родная мова доўгі час не была плятформай для супольнай дзейнасьці. Праўда, прадстаўнікі каталіцка–шляхецкага кірунку больш зрабілі для яе папулярызацыі, аднак цяжка адназначна меркаваць, у якой ступені гэта адлюстроўвала іх імкненьне стварыць мадэрную беларускую нацыю, а ў якой была толькі спробай процідзеяньня расейскай экспансіі. Нават Францішак Багушэвіч, якога часам лічаць бацькам беларускага нацыянальнага адраджэньня, у 1891 г. у прадмове да зборніка сваіх вершаў “Дудка беларуская” заклікаў: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі”, — і таго ж году ў Вільні пачаў закладаць нелегальныя польскія школкі[27]. Нарэшце, аніводзін з абуджальнікаў XIX ст. ня ўзяўся за стварэньне беларускага лемантара, гэтага найпрасьцейшага сродку разьвіцьця нацыянальнай культуры.

Дзеля гэтага ў выбары Вацлава Іваноўскага быў адмысловы аспэкт. Беларускі нацыянальны рух ня мог уцягнуць яго, бо яго яшчэ не было тады, калі Вацлаў вучыўся ў гімназіі. Якраз наадварот — яго нацыянальнае самавызначэньне было зьвязанае з усьведамленьнем неабходнасьці стварыць гэты рух шляхам абуджэньня гістарычнай памяці, стымуляваньня

[27] Krzywicki L. Na marginesie starej fotografii // Niepodległość. T. III, zesz. 1(5). Warszawa, 1933. S. 74.

і памнажэньня разнастайных творчых ініцыятываў. Малады гімназіст, безумоўна, ня ведаў усіх драбніцаў гістарычнага працэсу, што абумовілі генэзу руху, і ня быў глыбока абазнаны ў бягучай сытуацыі, аднак адчуваў у народзе патэнцыйныя сілы для Беларусі, якія дагэтуль гінулі ў польскай ці расейскай арбіце. Каб скіраваць гэтыя сілы на беларускі шлях, трэба было ў першую чаргу стварыць адпаведную ідэйную і арганізацыйную канцэпцыю.

## У пошуках канцэпцыі

Пасьля заканчэньня гімназіі маладыя Іваноўскія адзін за адным накіроўваліся ў сталічны Пецярбург. У 1895 г. туды прыбыў Юры, а ў 1899 г. — Вацлаў. Абодва яны сталі студэнтамі Тэхналягічнага інстытуту, дзе некалі вучыўся іх бацька. Юры вучыўся на факультэце мэханікі, а Вацлаў — на хімічным. У 1901 г. да іх далучыўся Тадэвуш, які скончыў у Пецярбургу гімназію і паступіў ува ўнівэрсытэт. Сыны жылі разам з бацькам у адным з найлепшых кварталаў гораду ля Ізмайлаўскага праспэкту (6–я рота, д. 10), як і належала сям'і правадзейнага дзяржаўнага радніка пры міністэрстве сельскай гаспадаркі. Тым часам маці заставалася ў Варшаве з двума меншымі дзецьмі — Галенай і Станіславам. Паводле традыцыі, усе яны зьбіраліся ў Лябёдцы на сьвята Вялікадня і Божага нараджэньня. Гэтаксама праходзілі і летнія вакацыі.

У адрозьненьне ад бацькі, які галоўную ўвагу надаваў прафэсійнай кар'еры, маладыя Іваноўскія ў Пецярбургу захапіліся палітычнай дзейнасьцю, якая паглынала іх ня менш за вучобу. Усе трое — Юры, Вацлаў і Тадэвуш — знайшлі сабе тут спрыяльныя ўмовы для рэалізацыі свайго нацыянальнага выбару. Гэтак, Юры стаў дзяячом польскага Кола народнай асьветы і Польскай сацыялістычнай партыі, між іншым, узяў удзел у вызваленьні Юзафа Пілсудзкага зь Пецярбурскага турэмнага шпіталю[1]. Тадэвуш навязаў кантакт зь літоўскімі дзеячамі і, як належала сьвядомаму літоўцу, пачаў вучыць літоўскую мову[2]. Толькі Вацлаў ня мог далучыцца да беларускай арганізацыі, бо на той час ані ў Пецярбургу, ані дзе–кольвек яшчэ такой арганізацыі пакуль не існавала[3]. Стварэньне Беларускай рэвалюцыйнай партыі (БРП), дзейнасьць якой паклала пачатак разьвіцьцю беларускага нацыянальнага руху, акурат і стала яго заслугай.

Акалічнасьці ўзьнікненьня і дзейнасьці БРП заслугоўваюць павышанай увагі перадусім з прычыны пазьнейшай супярэчлівай ацэнкі паходжаньня маладога беларускага нацыянальнага руху. Так, расейскія праціўнікі гэтага руху сьцьвярджалі, што ён паўстаў у выніку польскай інтрыгі, разьлічанай на падзяленьне "адзінай і непадзельнай" расейскай нацыі[4], а значыць — нацэленай супраць інтарэсаў расейскай дзяржавы. У сваю чаргу, яго польскія праціўнікі бачылі ў ім, асабліва ў міжваенны пэрыяд, расейскі падкоп, а калі–нікалі і нямецкі, пакліканы аслабіць польскія пазыцыі ў Беларусі[5]. Такім чынам, абодва бакі адмаўляліся прызнаць аўтэнтычны характар гэтага руху.

---

[1] Słownik biograficzny działaczy polskiego ruchu robotniczego. T. II. Warszawa, 1987. S. 583.

[2] Ivanauskas T. Gyvenimas... P. 16.

[3] У той час у Менску меўся гімназійны гурток пад кіраўніцтвам І. Луцкевіча. — *А.С.*

[4] Цьвікевіч А. "Западно–руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Менск, 1929. С. 310—313. — *Ю.Т.*

Гэтая праца А. Цьвікевіча была перавыдадзеная ў 1993 г. у Менску. — *А.С.*

[5] Як паведамляе прафэсар Ежы Тамашэўскі, яшчэ ў 1981 г. яго карэспандэнт трактаваў беларускую нацыю і беларускую культуру як выдумку на згубу Польшчы і дадаваў:

> <...> у Беларусі — як ува ўсіх правінцыях Польшчы — квітнела багатая народная культура з уласьцівай ёй гаворкай, таму на яе аснове царскія шавіністы ў апошнія гады XIX стагодзьдзя стварылі асобную беларускую культуру і беларускую нацыю, узяўшы за ўзор свой досьвед з Украінай, дзе адвечна польскіх сялян ператваралі ў ворагаў польскасьці з асобнай літаратурай (Rzeczpospolita wielu narodów. Warszawa, 1985. S. 133—134).

Патрэбу пільней прыгледзецца да генэзы БРП дыктуе таксама валюнтарызм беларускіх гісторыкаў і публіцыстаў у выяўленьні пачаткаў нацыянальнага руху. Гэта тлумачылася іх палітычнымі, клясавымі, рэлігійнымі пазыцыямі і нават асабістымі сымпатыямі альбо антыпатыямі. Дзейнасьць Вацлава Іваноўскага заціралася або ўвогуле ігнаравалася, бо ён паводле свайго паходжаньня “не падыходзіў” на ролю стваральніка радыкальнага народнага руху. Замоўчвалася нават само існаваньне БРП, да чаго ў найбольшай ступені спрычыніўся Антон Луцкевіч[6].

Закіды расейскіх праціўнікаў гэтага руху гучалі досыць пераканаўча ў сьвятле палітыкі ППС, якая ў канцы XIX ст. імкнулася спалучыць узьнікаючае сярод беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў пачуцьцё нацыянальнай адметнасьці з вызваленчымі імкненьнямі польскай нацыі. Гэтая мэта была сфармуляваная ў праграме ППС, прынятай на арганізацыйным зьезьдзе ў Парыжы (лістапад 1892 г.), якая прадугледжвала пашырэньне партыйнай дзейнасьці “ў правінцыях, зьвязаных даўней з Рэччу Паспалітай польскай”, а таксама — супрацоўніцтва зь існымі тады літоўскай і ўкраінскай сацыялістычнымі арганізацыямі ў барацьбе з царызмам[7]. Гэтыя пастуляты знайшлі далейшае разьвіцьцё на III зьезьдзе ППС у Вільні (чэрвень 1895 г.), дзе была прынятая наступная рэзалюцыя што да іншых народаў Расейскай імпэрыі:

Зважаючы, што ў склад расейскай дзяржавы ўваходзіць шмат іншых нацыянальнасьцяў і што сярод іх абуджаецца супраціў барбарскаму прыгнёту царызму, які сілай абставінаў павінен нарастаць;
зважаючы, што гэтыя народы дзякуючы сваёй шматлікасьці ўяўляюць сабой сілу, якая пры адпаведных умовах вызначыць лёс царызму;
зважаючы, што ў інтарэсах польскай рабочай клясы, гэтак сама, як і міжнароднага рабочага руху, палягае зрыненьне акупацыйнага царскага рэжыму, самым надзейным сродкам для чаго ёсьць адасабленьне ад цяперашняй расейскай дзяржавы заняволеных царызмам нацыянальнасьцяў;
зважаючы нарэшце, што сярод некаторых з гэтых нацыяў існуюць пачаткі сацыялістычнага руху,
Зьезд пастанаўляе, што ППС у сваіх узаемадачыненьнях з апазыцыйнымі групамі іншых нацыянальнасьцяў павінна дбаць пра абуджэньне ў іх сэпаратысцкіх настрояў і падкрэсьліваць пастаянную неабходнасьць зрынуць царызм шляхам узаемадзеяньня нацыяў, якія апынуліся пад яго прыгнётам. Зьезд адначасова даручае ЦРК (Цэнтральнаму рабочаму камітэту. — *Заўв. перакл.*) у меру магчымасьці аказваць дапамогу ўзьнікаючым сацыялістычным рухам сярод гэтых нацыянальнасьцяў[8].

Згодна з гэтымі ўстаноўкамі, польскія незалежніцкія дзеячы ўжо на пачатку 1890–х г. заняліся перавозам выдадзеных за мяжой беларускіх кніжак і іх распаўсюджаньнем на тэрыторыі Расейскай імпэрыі. Сярод гэтай літаратуры былі кніжкі Ф. Багушэвіча, асабліва — “Дудка беларуская”, якая выйшла ў Кракаве ў 1891 г., а таксама — агітацыйная брашура “Дзядзька Антон, альбо Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — ня ведаем”, якую выдалі ў Тыльзыце на пачатку 1892 г. сябры маскоўскага Польскага гуртка — Напалеон Чарноцкі і Мар’ян Абрамовіч. Важную ролю ў перавозе гэтай брашуры з Тыльзыту адыграў сябра Пілсудзкага, пазьней чалец ЦРК ППС, Аляксандар Суль-

[6] На жаль, да гэтага часу ня выяўленая значная частка працы А. Луцкевіча “Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля Сацыялістычнае) Грамады” (гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху: Выбраныя творы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003). У ёй аўтар адказваў на аналягічныя закіды кс. А. Станкевіча і — ня выключана — выказваўся наконт БРП. Што ж датычыць аўтара гэтае манаграфіі, дык ён далей сам піша, што “БРП не была партыяй у поўным сэнсе гэтага слова” і што “вясною 1903 г. Іван Луцкевіч распачаў стварэньне БРГ”. — *А.С.*
[7] Materiały do historii PPS i ruchu rewolucyjnego w zaborze rosyjskim od 1893 r. do 1904 r. Rok 1893—1897. Warszawa, 1907. S. 19.
[8] Тамсама, с. 149.

кевіч, які з 1890 г. некалькі гадоў працаваў у мытні на мяжы з Прусіяй і арганізоўваў перавоз нелегальных сацыялістычных выданьняў у Расею[9]. Паводле справаздачы ППС, толькі за 1895 г. каля Таўругу на прускай мяжы было перакінута 332 асобнікі беларускіх выданьняў[10]. Пра вялікае значэньне, надаванае папулярызацыі гэтых кніжак, можа сьведчыць хаця б такі факт: у 1896 г. Зыгмунт Нагродзкі, прыяцель Юзафа Пілсудзкага, прафінансаваў другое выданьне "Дудкі", выпушчанае ў Кракаве[11]. Гэтая кніжка стала свайго роду катэхізісам для дзеячоў беларускага адраджэньня.

Распаўсюджаньне беларускай літаратуры сябрамі ППС спрыяла пашырэньню рэвалюцыйных настрояў у Беларусі і абуджэньню нацыянальнай сьвядомасьці. У гэтым сэнсе яна аказала пазытыўны ўплыў на ўзьнікненьне беларускага нацыянальнага руху. Таму, відаць, некаторыя аўтары, малюючы гэты ўплыў зь немалым перабольшаньнем, сьцьвярджаюць, што ППС адыграла вырашальную ролю ў зараджэньні беларускага руху[12]. Па сутнасьці, гэтая партыя ў першае дзесяцігодзьдзе свайго існаваньня не выходзіла па–за межы распаўсюджаньне выдадзеных за мяжой кніжак, яна не займалася выпускам агітацыйнай літаратуры ад уласнага імя і не рабіла спэцыяльных захадаў, каб стварыць пад сваім крылом беларускую рэвалюцыйную арганізацыю.

Дзякуючы знаёмствам брата Юр'я Вацлаў Іваноўскі апынуўся ў асяродзьдзі пецярбурскіх дзеячоў ППС адразу ж па прыезьдзе на вучэньне ў 1899 г. Ён асабіста пазнаёміўся зь лідэрамі партыі, пасябраваў зь яе пецярбурскімі дзеячамі — студэнтамі Мечыславам Міхаловічам, Рамуальдам Мілерам, Канстанцінам Дэмідэцкім–Дэмідовічам ды многімі іншымі. Такім чынам, ён добра арыентаваўся ў справах ППС, яе праграме і палітычных мэтах у Беларусі, карыстаўся сымпатыяй яе сяброў, якія імкнуліся заахвоціць яго да працы на беларускай ніве. Натуральна, зыходным пунктам такой працы была канцэпцыя і людзі, гатовыя ўвасобіць яе ў жыцьцё. Аднак пакуль што не было ані таго, ані другога.

Паўстае пытаньне, ці мог Вацлаў прызнаць праграму ППС за ідэйную аснову беларускай арганізацыі. Шмат гадоў пазьней ён пісаў, што думка аб сувэрэннай незалежнасьці Беларусі паўстала ў 1899—1900 г. сярод сяброў Беларускай рэвалюцыйнай грамады[13]. Нават калі спамянуць той факт, што Грамада паўстала пазьней, толькі праз некалькі гадоў, гэтае выказваньне ня дужа праясьняе пытаньня, бо ідэю беларускай незалежнасьці на той час прызнавала і ППС. Большае праграмнае значэньне мела б ажыцьцяўленьне гэтай ідэі. Але ў такім разе колькасьць пытаньняў і сумненьняў памнажалася б да бясконцасьці. Таму лёгіка падказвала, што падзеньне царскага абсалютызму можа адбыцца ў выніку агульнарасейскай рэвалюцыі, а ня дзейнасьці ППС. У сваю чаргу, рэвалюцыя павінна была зьнішчыць польскую зямельную ўласнасьць у Беларусі, што не ўваходзіла ў пляны ППС. Нарэшце, паўставала пытаньне, ці пастуляванае аднаўленьне Рэчы Паспалітай як фэдэрацыі нацыяў стварыла б для беларусаў на тагачасным этапе іх нацыянальнай сьвядомасьці лепшую альтэрнатыву.

Гэта былі ключавыя пытаньні, якія доўга яшчэ непакоілі дзеячоў беларускага руху. Напэўна, не разьвязаў іх на пачатку XX ст. і малады студэнт В. Іваноўскі. Уваходзячы ў сьвет палітыкі, яму даводзілася здаваць сабе справу з таго, што нічога не даецца раз і

---

[9] Вакол абставінаў публікацыі "Дзядзькі Антона". С. 22—30 у гэтым выд. — *Рэд.*

[10] Materiały do historii PPS… S. 173.

[11] Луцкевіч А. Жыцьцё і творчасьць Фр. Багушэвіча ў успамінах яго сучасьнікаў // Запісы Беларускага навуковага таварыства. Сш. 1. Вільня, 1938. С. 29—30. — *Ю.Т.*

Гэты артыкул апублікаваны таксама ў: Крыніца. 1995. № 11—12; Спадчына. 2001. № 1—2. Гл. таксама тэкст А. Луцкевіча "Зыгмунт Нагродзкі і яго адносіны да беларусаў: Пасьмертны ўспамін" // Куфэрак Віленшчыны. 2004. № 1(9). — *А.С.*

[12] Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, 1934. С. 71—72; Pobóg–Malinowski W. Najnowsza historia polityczna Polski. T. II. Londyn, 1967. S. 355; Wajner M. Do historii PPS na Litwie // Niepodległość. T. XV. 1937. S. 329.

[13] Станкевіч А. Да гісторыі… С. 73.

назаўжды, а зьмены сытуацыі прымусяць не аднойчы перагледзець каштоўнасьці і арыенціры і нават мяняць саюзьнікаў. У той самы час успадкаваны, мабыць, ад бацькі, рацыяналізм дыктаваў яму перакананьне аб патрэбе пачаць арганізаваную нацыятворчую арганічную працу, вынікі якой застануцца трывалай вартасьцю пры любой палітычнай сытуацыі; больш за тое спрычыняцца да фармаваньня такіх сытуацыяў. Ён бачыў, што гэта доўгі, але самы эфэктыўны шлях да вызваленьня беларускага народу з–пад чужых культурных і палітычных уплываў.

Усе гэтыя праблемы часта абмяркоўваліся сярод сяброў створанага Вацлавам Іваноўскім студэнцкага гуртка, які, паводле яго прызнаньня ў лісьце да ксяндза Адама Станкевіча, існаваў яшчэ да 1902 г., ня маючы строгай арганізацыйнай формы[14]. Таму можна меркаваць, што ён меў характар дыскусійнага клюбу, бо нічога іншага пра яго дзейнасьць невядома. Людзей у ім было напачатку, напэўна, няшмат. Праўда, у той пэрыяд у Пецярбургу вучылася багата студэнтаў зь Беларусі, але сярод іх не было вясковай моладзі, якая адно празь некалькі гадоў атрымала права навучацца ў вышэйшых навучальных установах Расеі. Таму свае заклікі і аргумэнты В. Іваноўскі адрасаваў галоўным чынам да шляхецкай моладзі з спальшчэлых памешчыцкіх сем'яў. Многія з гэтых маладых людзей гатовыя былі працаваць сярод беларускага люду на яго роднай мове, але ў інтарэсах польскай справы, а ня новай ды малазразумелай — беларускай, якую прапагандаваў Іваноўскі.

Такую пазыцыю ў вялікай ступені абумоўлівала амаль поўная адсутнасьць традыцыяў арганізаванага беларускага руху. Студэнцкія зямляцтвы, што існавалі ў акадэмічных асяродках Расеі, мелі пераважна расейскі культурны характар і, за адным выняткам, не пакінулі па сабе сьледу на ніве беларускага адраджэньня[15]. Дзейнасьць А. Гурыновіча і народавольцаў — выдаўцоў гектаграфічнага часопіса "Гомон" на пачатку 80–х г. XIX ст. — была хутка зьліквідаваная, а памяць па ёй, надоўга пахаваная ў паліцыйных архівах, амаль зацерлася ў асяродзьдзі беларускіх студэнтаў. Зь іншага боку, на фармаваньне іх сьвядомасьці пазытыўна ўплывалі працы расейскіх вучоных, зацікаўленых беларускай гісторыяй і народнай культурай — расла колькасьць публікацыяў, прысьвечаных гэтым пытаньням. Нарэшце, істотную ролю адыгрывалі ідэі паўстаньня 1863 г. і ініцыятараў беларускага адраджэньня з XIX ст. — Канстанціна Каліноўскага, Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча, Уладзіслава Сыракомлі і асабліва Францішка Багушэвіча.

Значыць, існавалі ня толькі адмоўныя, але і дадатныя перадумовы для ўзьнікненьня такога руху. Таму намаганьні Вацлава Іваноўскага далі плён. У 1901/1902 навучальным годзе беларускі студэнцкі гурток, напэўна, стаў ужо даволі шматлікім, калі ўлічыць, што на яго аснове было вырашана стварыць нелегальную арганізацыю — Беларускую рэвалюцыйную партыю. Мы ня ведаем даты яе ўтварэньня, аднак можна меркаваць, што гэта адбылося на пачатку 1902 г. Пра гэта сьведчыць ужо прыгаданае паведамленьне Вацлава Іваноўскага аб тым, што да самага 1902 г. існаваў толькі нефармальны гурток, а таксама — яшчэ адзін цікавы факт: вясной 1902 г. дзеячы БРП мерыліся неўзабаве склікаць свой партыйны зьезд[16].

Вестка аб стварэньні БРП выклікала характэрную рэакцыю з боку кіраўніцтва ППС у абсягу тактыкі дзеяньня ў Беларусі: у чэрвені 1902 г. на VI зьезьдзе ў Любліне была прынятая таемная "беларуская рэзалюцыя", у якой гаварылася:

> *Беларуская рэзалюцыя*. Даручыць Выканаўчаму камітэту выслаць дэлегатаў на зьезд, каб выявіць ім сымпатыі і пажаданьні імкнуцца да незалежнасьці і фэдэрацыйных адносінаў з намі. — ППС лічыць, што яна мае права ўзьдзейнічаць на беларускае насельніцтва даступнымі ёй сродкамі, якія не супярэчылі б прынцыпам і інтарэсам беларускай сацыялістычнай арганізацыі[17].

[14] Тамсама, с. 69.

[15] Туронак Ю. Вакол абставінаў публікацыі "Дзядзькі Антона". С. 22—30 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

[16] Uchwały IV zjazdu PPS. Цэнтральны архіў ЦК ПАРП, 305/III/1, pt. 2, k. 46 і далей.

[17] Тамсама.

Але дэлегаты ППС не змаглі прэзэнтаваць гэтых пастановаў на зьезьдзе, бо зьезд той так і не адбыўся. Тым ня менш, згаданая рэзалюцыя, прынятая польскімі сацыялістамі, сталася важным дакумэнтам, які сьведчыў пра ідэйную і арганізацыйную незалежнасьць БРП ад ППС. У адваротным выпадку інструкцыі для пэпээсаўскіх дэлегатаў, чыёй задачай было намовіць беларусаў да фэдэрацыі з Польшчай, гучалі б цалкам іначай, калі б БРП зьявілася на сьвет дзякуючы арганізацыйным намаганьням ППС.

Большае значэньне для пацьверджаньня гэтай тэзы мае другая частка памянёнай рэзалюцыі, якая сьведчыць, што кіраўніцтва ППС баялася канкурэнцыі з боку беларускай арганізацыі. Яно, напэўна, добра ўсьведамляла яе слабасьць, аднак не магло прадбачыць, як складзецца яе далейшая дзейнасьць. Таму, нягледзячы на абяцаньне з павагаю ставіцца да яе прынцыпаў і інтарэсаў БРП, рашэньне VI зьезду ППС пра беспасярэдняе ўзьдзеяньне на беларускае насельніцтва гаварыла аб тым, што гэтая партыя не зьбіраецца адмаўляцца ад уласных уплываў на карысьць беларускіх саюзьнікаў.

Гэтая пазыцыя выразілася ў тым, што ППС пачала выданьне агітацыйнай літаратуры на беларускай мове, распрацоўкай якой заняліся дзяячы спэцыяльнай, створанай у 1902 г., партыйнай акругі для беларуска–літоўскіх земляў, г.зв. ППС у Літве. У выніку напрыканцы 1902 і ў студзені 1903 г., у лёнданскай друкарні ППС выйшлі тры беларускія брашуры: “Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць”, “Як зрабіць, каб людзям стала добра на сьвеце” і “Хто праўдзівы прыяцель беднага народу”. Апрача таго, у траўні 1903 г. ППС у Літве выдала па–беларуску адозву да земляробаў з–пад Скідзеля, што на Гарадзеншчыне, якая мела назву “Да браці мужыкоў”. Натуральна, гэтыя публікацыі адлюстроўвалі ідэалёгію ППС. Яны выкрывалі самадзяржаўе як галоўную прычыну сялянскай нядолі, затое, дбаючы пра інтарэсы польскага панства, абыходзілі вострыя клясавыя супярэчнасьці ў Беларусі. Пытаньне беларускага нацыянальнага адраджэньня ў іх таксама ігнаравалася. Гэтак, выдаўцы гэтых брашур не цікавіліся фактам, што беларускія дзеці ня могуць атрымаць асьветы на роднай мове, затое абураліся супраць царскіх уладаў за тое, што ім забараняюць вучыцца па–польску[18].

У 1902 г. БРП таксама распачала выдавецкую дзейнасьць. Багатых мэцэнатаў у яе не было, таму выдаваць друкаваныя публікацыі яна не магла. Бракавала ня толькі дасьведчаных публіцыстаў — не было нават элемэнтарных граматычных і правапісных правілаў беларускай мовы. Апрача таго, ніводзін з маладых пачынальнікаў гэтага руху ня быў знаёмы з тэхнікай нелегальнай працы. Але гэтыя цяжкасьці не палохалі В. Іваноўскага, які, напэўна, з досьведу вывучэньня хіміі верыў у магчымасьць — як ён сам казаў — “зь нічога стварыць нешта”. Ён пачаў з самай неабходнай рэчы — купіў гектограф. На гэта пайшоў увесь яго заробак з студэнцкай практыкі. Яму дапамог Мечыслаў Міхаловіч, дзяяч ППС, які з сымпатыяй ставіўся да беларускага адраджэньня[19]. З Іваноўскім яго зьвязвала ня толькі грамадзкая дзейнасьць — у Пецярбургу абодва яны заляцаліся да сясьцёр Ячыноўскіх — Станіславы і Сабіны — і неўзабаве сталі швагрaмі.

Першай публікацыяй БРП, надрукаванай на гэтым гектографе, стала адозва “Да інтэлігенцыі”, якая выйшла ўвосень 1902 г. Яна была выдадзеная на польскай мове, каб знайсьці як мага шырэйшы водгук сярод апалячанай інтэлігенцыі Белай Русі — свайго адрасата. Адозву імгненна перадалі ў рэдакцыю пэпээсаўскага “Przedświtu” ў Лёндане, які апублікаваў яе ў лютым 1903 г. Перадаў яе, без сумневу, Юры Іваноўскі, які ў 1901 г. ужо скончыў вучобу і працаваў спачатку ў Чанстахове, а са жніўня 1902 г. — на фабрыцы Б. Гандке ў Варшаве і дзейнічаў адначасова ў замежным камітэце ППС[20]. Існуе шмат падставаў, каб прывесьці поўны тэкст гэтай адозвы:

[18] Як зрабіць, каб людзям стала добра на сьвеце. Лёндан, 1903. С. 8.

[19] Станкевіч А. Да гісторыі… С. 74.

[20] Akta Warszawskiego Gubernialnego Zarządu Żandarmerii. Архіў сталічнага гораду Варшавы, syg. 597, k. 12, 76.

**Да інтэлігенцыі**

Хто з вас пазайздросьціць долі ламавой клячы? Блага накормленая, вечна бітая, прадаваная, як толькі выб'ецца зь сілаў, скуралупам — гаруе ўсё сваё жыцьцё, амаль ніколі ня ведаючы адпачынку... Прыемны і харошы малюнак, ці ня так? — і аднак жа, аднак жа вы дазваляеце, не пратэстуеце, ня робіце анічога, каб народ, зь якога вы выйшлі, ня ведаў гэткага ж лёсу. Цёмны — дапатопнымі прыладамі нішчыць зямлю–карміцельку; бедны — за гэта нясе на сабе цяжар падаткаў; аглушджаны, бо не гаспадарыць над сабой, зь цярплівасьцю слана церпіць дзяржаўны прыгнёт. Усё гэта на руку тым, чыё існаваньне трымаецца на дурноце, цямрэчы і эксплюатацыі народу. Ці хочаце вы браць удзел у гэтым сыстэматычным абкраданьні лепшай долі народу свайго? Вы адмаўляецеся, гледзячы проста ў вочы? Але гэта так, калі самі вы, маючы сьвятло, ня дзеліцеся з тымі, у каго яго няма. І гэтае бязьдзеяньне помсьціцца на вас. Адцятыя ад народу выхаваньнем у чужой мове, вы ня здолелі стварыць уласнай самастойнай культуры для свайго асяродзьдзя і пайшлі служыць суседзям. І слушна — бо не адважыліся на тое, на што адважыліся стакроць меншыя лікам літоўцы, баўгары, сэрбы, харваты і г.д.

Дайце народу асьвету, але дайце яе на роднай мове. Інакш яна ніколі не праточыцца ў нізы. Розум дзіцяці, які зь цяжкасьцю засвойвае агульныя паняцьці, робіць падвойную працу, засвойваючы іх на чужой мове. Адсюль недакладнасьць, хаос, зьнеахвочанасьць да вучэньня. Родная мова — гэта ж выраз душы, яе пачуцьцяў, думак. Урад ведае, што робіць, калі кідае жабрачыя аб'едкі асьветы па–расейску: ён ці ўвогуле адбівае ахвоту да навукі, ці стварае блытаніну паняцьцяў, разрывае непасрэдную еднасьць з народам у самых здольных, робіць зь іх слугаў, што мысьляць па–расейску, у зародку нішчыць нацыянальную адметнасьць, затрымлівае разьвіцьцё беларускай культуры. З усіх яго злачынстваў гэтае, бадай, найвялікшае: катаваньне дзяцінага розуму, скрыўленьне інтэлектуальнага разьвіцьця, маральнае разбэшчваньне — а ў пэрспэктыве — ператварэньне ў маскаля мовай і розумам, а калі ты яшчэ і праваслаўны — перад беларусам адкрываецца шлях да ганаровых пасадаў і дабрабыту — цаной здрады народу. І сярод вас ёсьць шмат гэткіх прадажнікаў.

Дайце народу спазнаць сваё мінулае. Чалавек, які ня памятае таго, што рабіў, адчуваў, думаў, які не распараджаецца нават уласным досьведам — ня ведае, як распараджацца сабой, робіцца лялькай, людзкім пасьмешышчам. Ён можа толькі весьці вэгетатыўнае існаваньне. Гэта амаль быдла. І гэта — доля народу, які ня памятае гісторыі продкаў. Дык вы сталі нявольнікамі ня толькі таму, што вас зламалі паразы — вы сталі нявольнікамі праз свае душы — вы вернападданыя маскоўскага цара. Дзе вашыя законы? У пыле, забытыя, гніюць у бібліятэках, затое ўсёмагутны бізун вісіць над вамі. Цалуйце яго, рабы! Можа, калі ў імгле замаячыць мінуўшчына ваша, пахмурая, але ўзьнёслая — вы і пачняце згадваць пра свае правы; можа быць, але безь яе — ніколі. Тым, чым для кожнай душы ёсьць сьвядомасьць, якая нанізвае на адну ніць пражытыя імгненьні, тое для нацыяў — злучэньне мінулых стагодзьдзяў зь цяпершчынай; авалодваньне ёй, рахункам сумленьня, крыніцай, зь якой струменіць жаданьне новай працы для будучыні.

Даць народу асьвету, пазнаёміць яго з роднай гісторыяй — але як? Народнай літаратуры амаль няма, няма гісторыі: яе належыць стварыць! Ці ж трэба спасылацца на прыклады народаў, якія гэта зрабілі, даводзіць, што гэта — мажлівая справа? Чэхі, літоўцы зрабілі гэта, а вы ня здолееце? — вось вам накід праграмы:

1) Арганізоўваць гурткі для працы над роднай мовай (граматыка!), краязнаўствам, гісторыяй, літаратурай. Зьвярнуцца да высокакваліфікаваных спэцыялістаў у адпаведных галінах з просьбай прачытаць лекцыі і напісаць адпаведныя творы. Палегчыць ім гэтую працу, даўшы матэрыяльную дапамогу.

2) Пазнаёміцца з польскай і расейскай народнай літаратурай, перакладаць і самім пісаць адпаведныя творы.

3) Арганізаваць збор сродкаў на памянёныя выданьні.

4) Арганізаваць продаж альбо распаўсюджаньне выданьняў.

5) Выказваць пагарду тым, хто гэтага рабіць ня будзе.

На заканчэньне — маленькі абразок з Канапніцкай (польскай паэткі):
Багаты рымлянін праводзіў сваіх гасьцей па будынку, у якім трымаў купленых рабоў. Германец, скіф, нумідыец, грэк — усе патаналі ў тузе за родным краем, упадалі то ў шаленства гневу, то ў халодную роспач, выпраменьвалі нянавісьць. І толькі адзін славянін граў на жалейцы і танцаваў. Умеў ён суцешыцца ў няволі, забыць аб страчаным краі, аб нядаўняй свабодзе.

Будзем і надалей падобныя да яго?

Б. Р. П.[21]

Хто быў аўтарам гэтай адозвы? На думку Аляксандра Бурбіса, тагачаснага віленскага гімназіста, яе напісаў Лявон Малецкі, студэнт Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту. Напісаў яе ў Вільні, гэта значыць — падчас летніх вакацыяў 1902 г., якія Малецкі правёў у родным доме[22]. Аднак, здаецца, вэрсія А. Бурбіса не здымае праблемы аўтарства. Сэнс і пастуляты гэтай адозвы мала хвалявалі Малецкага — пра гэта сьведчыць яго адыход ад беларускага руху пасьля заканчэньня інстытуту ў 1904 г. Такім чынам, можна меркаваць, што гэтая адозва была апрацаваная пры беспасярэднім удзеле Вацлава Іваноўскага, бо закладзеныя ў ёй ідэі засталіся галоўным арыенцірам яго далейшай шматгадовай дзейнасьці.

Наступнай ініцыятывай Вацлава Іваноўскага стала спроба нелегальна выдаць часопіс "Свабода", задуманы як орган Беларускай рэвалюцыйнай партыі. Павелічэньне кола беларускай моладзі ў Пецярбургу спрыяла ажыцьцяўленьню гэтай задумы. Восеньню 1902 г. сюды прыехалі вучыцца браты Іван і Антон Луцкевічы зь Менску і Алёйзія Пашкевічанка з ваколіц Ліды. Алёйзія пасялілася ў незнаёмай ёй дагэтуль асобы — Сабіны Ячыноўскай, нявесты Вацлава Іваноўскага, і гэты факт, безумоўна, сьведчыць аб тым, што арганізатарам яе прыбыцьця ў Пецярбург быў акурат ён[23]. Тут Пашкевічанка скончыла гімназію Александроўскай і разам з Сабінай наведвала курсы Лесгафта. Алёйзія стала неўзабаве вядомай паэткай і дзяячкай, найчасьцей яна выступала пад псэўданімам Цётка[24]. Да ліку самых блізкіх і надзейных паплечнікаў В. Іваноўскага належаў таксама пецярбурскі гімназіст Вінцэнт Валейка родам з фальварку Галавічполь, што межаваў зь Лябёдкай. Таму ён быў змалку знаёмым суседам.

Гэтыя маладыя людзі заняліся выданьнем першага нумару "Свабоды". Зь імі супрацоўнічаў пэпээсавец Рамуальд Мілер і ўжо згаданы Лявон Малецкі. Зробленую ўручную матрыцу "Свабоды" на восем старонак падрыхтавалі Мілер (першая бачына) і Валейка (астатнія). Гэтыя матэрыялы перавезьлі ў Лябёдку, дзе падчас калядных вакацыяў 1902 г. яго аддрукавалі на гектографе накладам 200 асобнікаў Вацлаў і Тадэвуш Іваноўскія, а таксама — Валейка з братамі Антонам і Станіславам. На тытульным аркушы выданьня значылася: "Свабода, № 1, 1903 г."[25].

[21] Przedświt. 1903. № 2. S. 53—54.

[22] Бурбіс А. Беларуская Соцыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы // Беларусь. Нарысы гісторыі, экономікі, культуры і рэволюцыйнага руху. Менск, 1924. С. 178. — *Ю.Т.*

Гэтая публікацыя ёсьць скарочанай вэрсіяй працы А. Бурбіса "Кароткі агляд беларускага нацыянальна–рэвалюцыйнага руху", упершыню надрукаванай пад псэўданімам *Стары Піліп* у: Вестник народного комиссариата просвещения. 1921. № 1—2. — *А.С.*

[23] Арабей Л. Стану песней. Москва, 1982. С. 23.

[24] Як паведаміў муж Алёйзіі, літоўскі сацыял–дэмакратычны дзяяч Стэпонас Кайрыс, Цёткай яе празвалі суседзі Іваноўскія. Зь цягам часу гэтая мянушка стала яе літаратурным псэўданімам. Гл.: Кайрыс С. З маіх успамінаў пра Цётку // Конадні. Сш. 2. Нью–Ёрк, 1954. С. 68. — *Ю.Т.*

Гэтыя ўспаміны зьмешчаныя ў кнігах: На суд гісторыі: Успаміны, Дыялогі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994; Цётка. Выбраныя творы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. Друкаваліся яны і ў газэце "Літаратура і мастацтва". — *А.С.*

[25] Больш падрабязна пра "Свабоду" гл.: Туронак Ю. Па сьлядох "Свабоды". С. 17—19 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

Але фінал гэтай інцыятывы быў правальны: “Свабода” была зьнішчаная і не дайшла да чытача. Пазьней Вацлаў Івановускі блытаўся ў асьвятленьні гэтай падзеі: ён сьцьвярджаў, што ўвесь наклад пераправіў Юр’ю ў Варшаву і там яго канфіскавала паліцыя, іншым разам — што яго зьнішчылі ў Лябёдцы, калі паліцыя нечакана зьявілася ў доме, дзе друкавалася выданьне. Аднак ні першая, ні другая вэрсія не адпавядае сапраўднасьці[26]. У студзені 1903 г., падчасператрусу ў варшаўскай кватэры Юр’я, “Свабода” сапраўды была знойдзеная і канфіскаваная, але толькі адзін асобнік. Не адпавядае сапраўднасьці і другая вэрсія: ня так проста было зьнішчыць 200 надрукаваных асобнікаў у выпадку паліцыйнага налёту, апроч таго, быў бы сканфіскаваны і гектограф. Тым часам, пасьля няўдалай апэрацыі Тадэвуш спакойна завёз гэты апарат у Пецярбург. Хутчэй за ўсё, сапраўдная прычына была больш празаічная, а “Свабоду” мусіў зьнішчыць сам яе выдавец пасьля суровага ўмяшальніцтва бацькі, які прыехаў у Лябёдку на сьвята Божага нараджэньня і ўтаймаваў рэвалюцыйныя памкненьні сына.

Злы кон перасьледаваў “Свабоду” і пасьля інцыдэнту ў Лябёдцы. Адзіны ці адзін зь нямногіх засталых асобнікаў канфіскавала ў старэйшага з братоў Івановускіх варшаўская паліцыя, а сам Юры быў арыштаваны і на чатыры гады сасланы ў Ноўгарадзкую губэрню. Пры такім стане рэчаў гэтае выданьне мае пэўнае значэньне толькі для вывучэньня сьветапогляду яго стваральнікаў. Пакуль што, аднак, не было знойдзена ніводнага асобніка, таму гэтай справе цяжка даць нейкую вычарпальную ацэнку.

Як пісаў ксёндз Адам Станкевіч, спасылаючыся на паведамленьне Вацлава Івановускага, у “Свабодзе” былі зьмешчаныя два артыкулы, адзін зь якіх — на палітычную тэму, а другі — аб адметнасьці беларускага народу ад іншых народаў. Зьмест гэтых артыкулаў невядомы. Затое вядомы паэтычны дэбют Алёйзіі Пашкевічанкі — верш “Мужыцкая доля” — у якім, аднак, не было ніякіх рэвалюцыйных ці антыўрадавых акцэнтаў. Затое верш Сыракомлі “Добрыя весьці”, зьмешчаны ў “Свабодзе”, мае істотнае значэньне для характарыстыкі ідэйнага кірунку часопіса, а значыць — БРП. БРП хадайнічала перад ППС у справе выданьня гэтага верша асобнай лістоўкай накладам 2000 асобнікаў. Дзеля гэтага верш быў высланы ў Лёндан, але там яго не надрукавалі, і пазьней, у міжваенныя часы, ён разам зь лёнданскім архівам ППС вярнуўся ў Польшчу. Гэты верш захоўваўся ў Цэнтральным архіве ЦК ПАРП, а цяпер — у Архіве новых актаў у Варшаве як адзіны аўтэнтычны фрагмэнт “Свабоды”.

Значэньне напісанага ў пару “Вясны народаў” верша Сыракомлі “Добрыя весьці” палягае ў яго характэрнай пераробцы рэдактарамі “Свабоды”, у выніку чаго ён атрымаў цалкам іншы сэнс, прыстасаваны да новых умоў рэвалюцыйнай барацьбы. Па–першае, антырасейскія акцэнты арыгінальнага тэксту Сыракомлі замянілі на антыцарскія. Напрыклад, такія фармулёўкі Сыракомлі, як “лягчэй будзе сэрцу, як згінець маскаль” альбо “ня прыйдзе вораг з маскоўскага краю”, у “Свабодзе” атрымалі наступнае гучаньне: “лягчэй будзе сэрцу, як згіне наш цар” і “ня прыйдзе вораг з чужога краю”. Па–другое, клясавая згода і ўзаемадзеяньне паміж сялянствам і шляхтай, прапагандаваныя Сыракомлем, саступілі месца работніцка–сялянскай салідарнасьці. Вось характэрны прыклад перапрацоўкі:

| **Сыракомля:** | **“Свабода”:** |
|---|---|
| Мужык з панамі стаіць за панбраце | Мужык з рабочым стаіць за панбраце |
| Рука за руку, а грудзь за грудзь. | Рука за руку, грудзь за грудзь. |
| Пяром па карце, ды сахой па ніве, | Рукой у фабрыцы, сахой па ніве, |
| Адзін другому роўнасьць засьцярог. | Адзін другому вольнасьць засьцярог. |

Абедзьве публікацыі БРП дастаткова ясна выяўлялі пазыцыю гэтай партыі і асабліва — яе стваральніка, Вацлава Івановускага, шмат у якіх праблемах, што паўставалі перад маладым беларускім рухам. Калі ў адозьве “Да інтэлігенцыі” была сфармуляваная тыпо-

[26] Ёсьць і трэцяя вэрсія. Гл. заўвагу 3 да артыкула “Па сьлядох «Свабоды»” ў гэтай кнізе. — *А.С.*

вая культурна–асьветніцкая праграма: стварэньне агульнанацыянальнай мовы, літаратуры, краязнаўства ды айчыннай гісторыі — дык на гэты раз на сьвет зьявілася ўжо нешта большае за мары паэтаў і публіцыстаў XIX ст. — канкрэтны плян стварэньня элемэнтарных арганізацыйных і матэрыяльных умоў, якія далі б магчымасьць дзейнічаць калектыўнымі намаганьнямі. Гэта былі пастуляты нацыянальнай рэвалюцыі, якая павінна была ператварыць беларускія народныя масы ў нацыю. Першай фазай гэтага працэсу павінна было стаць стварэньне сьвядомай сваіх мэтаў інтэлігенцыі як шляхам прыцягненьня дэнацыяналізаванай эліты, так і ўзгадаваньня новай інтэлігенцыі, якая паходзіла б з народу.

Характэрная перапрацоўка зьмешчанага ў “Свабодзе” верша Сыракомлі “Добрыя весьці” і асабліва сьціраньне яго антырасейскіх акцэнтаў дае падставы меркаваць, што дзеячы БРП не падтрымлівалі сэпаратысцкіх тэндэнцыяў, якія праклямавала ППС. Больш блізкія і зразумелыя былі для іх пастуляты расейскіх рэвалюцыйных колаў, якія стаялі ня толькі на пазыцыях зрыненьня царызму, але і грунтоўнай перабудовы ўсяго грамадзкага ладу, у прыватнасьці, вырашэньня аграрнага пытаньня. Гэта магло значыць, што магчымасьць для ажыцьцяўленьня сваіх плянаў БРП бачыла не ў адрыве ад Расеі, але шляхам рэвалюцыі і дэмакратызацыі грамадзкага жыцьця гэтае дзяржавы.

ППС адразу ж адрэагавала на пазыцыю БРП. У камэнтары да апублікаванай на старонках “Przedświtu” адозвы “Да інтэлігенцыі” адзін зь вядомых дзяячоў ППС Вітальд Ёдка–Наркевіч (псэўд. А. Вронскі) пасьля запэўніваньняў аб гатоўнасьці польскіх сацыялістаў “усімі сродкамі, якія толькі ёсьць у нас ”, падтрымліваць працэс ператварэньня беларускага народу ў нацыю, пісаў наступнае:

> Аднак калі мы поўнасьцю прызнаём права кожнай нацыі на разьвіцьцё і самастойнасьць, то з гэтага зусім не вынікае, што мы павінны некрытычна разглядаць шанцы падобнага разьвіцьця. Дык што датычыць беларусаў, то трэба прызнаць, што пэрспэктывы ператварэньня гэтага народу ў нацыю прынамсі ў сёньняшніх палітычных варунках вельмі малыя. <...> Таму той, хто спрыяе разьвіцьцю беларускай нацыянальнасьці, найперш павінен стварыць у Літве сілу, якая б магла дапамагчы разьвеяць цяжкую хмару дэспатызму, што вісіць над гэтым няшчасным краем. <...> Дзеля гэтага сапраўдны беларускі патрыёт ня можа абмежавацца зьбіраньнем народных казак, сьпеваў і замоў, дасьледаваньнем граматыкі, але павінен займацца разьвіцьцём сьвядомасьці гэтага народу, тлумачыць яму, што яго эксплюатуюць і ўціскаюць, і стварыць зь яго адну вялікую палітычную сілу, якая б здолела заваяваць сабе лепшую будучыню. Мы зусім не пярэчым, што нацыі, якая мае ўласную інтэлігенцыю, жывецца лепей, чым народу, які стаіць на ўзроўні беларускага народу, але пачатак грамадзкай дзейнасьці з стварэньня гэтай інтэлігенцыі сярод народу, які ня мае самых асноўных людзкіх правоў і стаіць на гэтак нізкім узроўні культуры, як беларускі народ, было б будаваньнем замку на пяску. А калі цяпер зьвярнуць увагу на тое, што пашырэньне грамадзкай сьвядомасьці сярод карэннага беларускага насельніцтва павінна адбывацца на беларускай мове, што вымагае як дасканалых ведаў самой мовы, так і стварэньня ўсёй літаратуры — брашур, кніжак, часопісаў, — то мы прыйдзем да пераканаными, што такая дзейнасьць, якую рэкамэндуем мы (г.зн. выданьне агітацыйнай літаратуры на беларускай мове — *Ю.Т.*), будзе больш плённай з *нацыянальнага* пункту гледжаньня, чымся праца, прапанаваная аўтарамі адозвы. Сацыялістычную брашуру, умела напісаную, чытаюць тысячы, часам дзясяткі і сотні тысяч людзей, адначасова ўпэўніваючыся ў веданьні роднай мовы, тады як збор этнаграфічных дасьледаваньняў нават у культурных краінах разыходзіцца часам толькі ў дзясятках асобнікаў. Таму рэвалюцыянэр, які працуе для народу, тым самым спрычыняецца да стварэньня матэрыялу для будучай нацыі[27].

Такім чынам, элемэнтарная праграма Беларускае рэвалюцыйнае партыі выразна занепакоіла Ёдку–Наркевіча. Безумоўна, ён усьведамляў, што беларускі рух знаходзіцца

[27] Przedświt. 1903. № 2. S. 54—57.

яшчэ толькі ў зародковай фазе, аднак, маючы перад вачыма прыклады Ўкраіны і Літвы, мог лёгка прадбачыць, у якім кірунку гэты рух пойдзе далей. Таму і намагаўся скіраваць яго ў самую бясьпечную, з гледзішча ППС, каляіну: залучыць пад штандары сваёй партыі несьвядомыя сваіх нацыянальных мэтаў беларускія масы для барацьбы з царызмам. Ёдка–Наркевіч ня зьвязваў гэтае асновасяжнае мэты з адначасовым вырашэньнем беларускага нацыянальнага пытаньня, калі лічыў, што пэпээсаўскіх агітацыйных брашур, а не граматыкі, будзе досыць для паляпшэньня веданьня народам сваёй роднай мовы. За гэтым крылася боязь перад культурнай і палітычнай эмансыпацыяй Беларусі.

Крытыка намераў БРП, зьмешчаная ў “Przedświcie”, не прайшла па–за ўвагай кіраўніцтва ППС — яно добра было інфармавана аб тэндэнцыях, якія зараджаліся ў беларускай арганізацыі, і зрабіла з гэтага практычныя высновы. У чэрвені 1903 г. канфэрэнцыя ЦРК у Вільні аднагалосна пастанавіла спыніць выданьне агітацыйнай пэпээсаўскай літаратуры на беларускай мове. Як сьведчыць пратакол канфэрэнцыі, гэтае знамянальнае рашэньне было прынята на прапанову Пілсудзкага на падставе адной толькі фразы наконт таго, “ці здолеюць беларусы, нават умеючы чытаць па–польску або па–расейску, даць сабе рады зь беларускімі выданьнямі, друкаванымі польскімі ці расейскімі літарамі”[28]. Быў гэта, аднак, несумнеўны камуфляж сапраўднае прычыны. “Гутарка...” ды іншыя агітацыйныя беларускія брашуры, выдадзеныя ў Лёндане, карысталіся вялікай папулярнасьцю ў Беларусі і, напэўна, выконвалі падвойную, не заплянаваную іх выдаўцамі, ролю: пашыралі рэвалюцыйную думку, а разам з тым папулярызавалі беларускую мову і ўздымалі яе аўтарытэт, тым самым прычыняючыся да разьвіцьця нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. З гэтага гледзішча Ёдка–Наркевіч правільна ацаніў значэньне такіх брашур.

Пасьля прыняцьця віленскае рэзалюцыі ЦРК ППС заблякавала выдавецкую дапамогу беларускім дзяячом. У 1903 г. яны падрыхтавалі да друку некалькі чарговых агітацыйных брашур на беларускай мове (між іншым, пра паншчыну, а таксама — пераклад расейскае брашуры “Бойкот и стачка”) і пачалі зьбіраць сродкі для таго, каб пакрыць кошт друку. Гэтыя брашуры адаслалі ў ЦРК, але надрукаваныя яны не былі[29]. Гэтак жа, як не пабачыла сьвету ўлётка зь вершам Сыракомлі “Добрыя весьці”.

БРП стала пачаткам арганізаванага беларускага нацыянальнага руху. З тае пары ён зьведаў падзеньні і ўзьлёты, але — у адрозьненьне ад першых няўдалых спробаў XIX ст. — на гэты раз стаў на шлях трывалага разьвіцьця. БРП не была партыяй у поўным сэнсе гэтага слова. Яна была, бадай, толькі выпрацаванай Вацлавам Іваноўскім канцэпцыяй самастойнага руху, якая выстаўляла канкрэтныя задачы беларускага нацыянальнага адраджэньня. Гэтая канцэпцыя азначала разрыў з традыцыяй польскага культурнага патэрналізму ў Беларусі і таму ў польскіх палітычных колах выклікала недавер; гэты недавер заставаўся нязьменнай дамінантай у іх стаўленьні да беларускага пытаньня.

Крытыка Ёдкі–Наркевіча пакінула свой сьлед і ў беларускім асяродзьдзі ў Пецярбургу. Пры гэтым важную ролю адыгралі беларускія агітацыйныя брашуры, якія неўзабаве пачалі зь Лёндану трапляць у Беларусь і ў Пецярбург патаемнымі сьцежкамі, дзе іх успрымалі за праяву інтэрнацыяналісцкіх намераў ППС і рэальны доказ яе павагі да пагарджанай і забароненай у царскай Расеі беларускай мовы. Рамуальд Зямкевіч, пазьнейшы дасьледчык беларускай літаратуры, сьцьвярджаў, што гэтыя брашуры ў вялікай ступені паспрыялі зараджэньню яго асабістай зацікаўленасьці беларушчынай[30]. Напэўна, іх меў на ўвазе і Янка Купала, калі гаварыў пра рэвалюцыйныя адозвы, выдаваныя на беларускай мове, якія істотна паўплывалі на яго рашэньне пісаць па–беларуску[31]. Такім чынам, гэтыя

---

[28] Sprawozdanie z konferencji CKR PPS z czerwca 1903 r. // Niepodległość. T. XX. 1939. S. 111.

[29] Protokół z konferencji CKR z 16—17.12.1903 r. w Mińsku. Цэнтральны архіў ЦК ПАРП, 305/III/3, pt. 3.

[30] Шлюбскі А. Новыя матэрыялы да гісторыі “Нашае Долі” // Полымя. 1927. № 3. С. 204.

[31] Пуцявінамі Янкі Купалы. Дакументы і матэрыялы. Мінск, 1981. С. 7. — *Ю.Т.*

Я. Купала паведамляў у лісьце да Л. Клейнбарта, што яго пісаньне па–польску “пошло насмарку” пасьля

брашуры пацьвярджалі слушнасьць аргумэнтаў Ёдкі–Наркевіча і дзякуючы няведаньню намераў ЦРК, сфармуляваных у пастанове Віленскай канфэрэнцыі, спрыялі росту аўтарытэту ППС сярод беларускіх дзячоў у Пецярбургу. Разам з тым у некаторых з гэтых дзячоў абудзіўся крытыцызм у дачыненьні да культурна–асьветніцкай арыентацыі БРП. На пачатку 1903 г. гэта прывяло да падзелу ў беларускім асяродзьдзі і заняпаду БРП.

Так склалася, што калі не лічыць колькіх драбніцаў, пададзеных Іваноўскім, то адзіным аўтарам, які на падставе сваіх успамінаў шмат разоў асьвятляў зараджэньне беларускага руху ў Пецярбургу, быў Антон Луцкевіч[32]. Беларускія дакумэнты не захаваліся[33], і для дасьледчыкаў, не знаёмых з архіўнымі матэрыяламі ППС, яго ўспаміны сталі адзінай крыніцай зьвестак пра гэты рух. Аднак Антон Луцкевіч быў непасьлядоўным. У першых сваіх публікацыях 1909—1910 г. ён пісаў пра раскол руху на два ідэалягічныя напрамкі: культурна–асьветніцкі і рэвалюцыйны, і нават акрэсьліваў дзячоў першага кірунку зьдзеклівым эпітэтам "культуртрэгеры"[34].

Затое пазьней ён зьмяніў сваю думку і падкрэсьліваў адзінадушнасьць "сьпетай тройкі", г.зн. — Вацлава Іваноўскага ды Івана і Антона Луцкевічаў, чые пазыцыі радыкалізаваліся, што прывяло да стварэньня Беларускай рэвалюцыйнай грамады (БРГ)[35].

Паўстае вельмі прынцыповае пытаньне: ці быў раскол, ці не, а калі не было, дык чаму перастала існаваць БРП і дзеля чаго была створаная новая палітычная арганізацыя — БРГ? На шчасьце, мы можам не абмяжоўвацца інфармацыяй А. Луцкевіча і ня біцца над тым, якая зь яго вэрсіяў адпавядае сапраўднасьці. У сьнежні 1903 г. адбылася чарговая канфэрэнцыя ЦРК ППС, на якой было пацьверджанае існаваньне дзьвюх беларускіх групаў у Пецярбургу, адну зь іх акрэсьлілі як "радыкальна–сацыялістычную", другую — як "радыкальна–нацыянальную"[36]. Гэта былі дзьве арганізацыі, якія паўсталі

---

знаёмства зь беларускай рэвалюцыйнай літаратурай, а таксама з кнігамі Ф. Багушэвіча і В. Дуніна–Марцінкевіча "в 1904 или в начале 1905 г." (Купала Я. Поўны збор твораў. Т. 9. Кн. 1. С. 271), а трохі раней ў тым самым лісьце паэт пісаў, што "в 1904—1905 гг." праз У. Самойлу, які быў ягоным рэпэтытарам, ён пазнаёміўся з А. Бурбісам, С. Скандраковым і братамі Луцкевічамі і што яны давалі яму нелегальную літаратуру. Больш падрабязна пра гэта: Сідарэвіч А. Антон Луцкевіч і Янка Купала // Тэрмапілы. 2003. № 7; яго ж. Сто гадоў з Купалам // Наша Ніва. 2005. 20 траўня. — *А.С.*

[32] Гэта не зусім так. Свае ўспаміны пакінулі А. Бурбіс (гл. заўвагу 12), Ф. Стацкевіч (гл.: Аганёк. Успаміны і думкі // Беларускі Звон. 1921. 17 красавіка; яго ж. Зь мінуўшчыны беларускага руху: Успаміны // Беларускі Летапіс. 1937. № 6—9; Стацкевіч Ф. З маіх успамінаў // ЛіМ. 1990. 7 жніўня. Акрамя таго, у БДАМЛМ (ф. 55/4, воп. 1, адз. захав. 1) захоўваюцца "Ўспаміны" Ф. Стацкевіча і Яўгеня Хлябцэвіча (Хлябцэвіч Я. Цётка // Полымя. 1924. № 3). Каштоўнымі крыніцамі ёсьць таксама ўспаміны Дзядзькі Пранука (Ф. Умястоўскага) "Аб «Нашай Долі»" (гл.: Беларусь. 1919. 17 сьнежня; Беларускія Ведамасьці. 1921. 26(13) верасьня), Зьм. Жылуновіча "Дваццаць гадоў назад" (Полымя. 1929. № 5) ды іншыя публікацыі. Акрамя таго, трэба мець на ўвазе і ў значнай меры страчаную працу А. Луцкевіча "Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля Сацыялістычнае) Грамады". — *А.С.*

[33] Гэта не зусім так. Частка гэтых дакумэнтаў апублікаваная ў: ARCHE. 2006. № 4. — *А.С.*

[34] Новина А. (Луцкевіч А.) Белорусы // Формы национального движения в современных государствах. СПб., 1910. С. 391; Odrodzenie narodowe Białorusinów // Litwa. 15.03.1909, № 4. — *Ю.Т.*

У тэксьце артыкула "Белорусы", які выйшаў асобнай адбіткай (СПб., 1909) і перадрукаваны ў кнізе А. Луцкевіча "Да гісторыі беларускага руху", слова "культуртрэгер" няма. Акрамя таго, дасюль ня высьветлена, ці ёсьць публікацыя ў "Litwie" перакладам артыкула А. Луцкевіча "Национальное возрождение белорусов", рукапіс якога захоўваецца ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 336, арк. 1—19) і падпісаны псэўданімам *Антон Новина*. Рукою аўтара наверсе першае старонкі рукапісу пазначана, што артыкул друкаваўся ў: Slovanský Přehled. Čislo 4, Leden, Ročnik XI, 1909. Пра гэтую публікацыю Я. Журба паведамляў у артыкуле "Лісты з Ўкрайны" (Наша Ніва. 1909. 7(20) траўня). Артыкул А. Луцкевіча пад загалоўкам "Национальное возрождение белорусов" друкаваўся таксама ў "Московском еженедельнике" (1909. № 9). — *А.С.*

[35] Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху: Выбраныя творы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003. С. 143.

[36] Protokół z konferencji CKR PPS z 16—17.12.1903.

на месцы ранейшай БРП і на самай справе называліся Круг беларускай народнай прасьветы і Беларуская рэвалюцыйная грамада. Але варта прывесьці цікавае выказваньне аднаго з удзельнікаў Менскай канфэрэнцыі ЦРК, які сьцьвярджаў, што гэтыя беларускія сацыялісты "мяшаюцца" зь беларускімі нацыяналістамі і "аб'ядноўваюцца зь імі"[37].

Такім чынам, раскол і сапраўды адбыўся, іначай што б магло значыць гэтае "зьмяшаньне" і "аб'яднаньне" адасобленых плыняў? Безумоўна, на гэтую сытуацыю ў беларускім асяродзьдзі ўзьдзейнічала ня толькі пэпээсаўская крытыка БРП, але таксама — і ў найвялікшай ступені — асабістыя стасункі паміж чальцамі кіраўнічай тройкі, зусім не такой ужо і "сьпетай", як падаваў Антон Луцкевіч у 1928 г.[38].

Сапраўды, пасьля прыезду братоў Луцкевічаў у Пецярбург усё напачатку складалася ўдала. Старэйшы брат Іван адразу ж далучыўся да дзейнасьці БРП і разам з Вацлавам Іваноўскім удзельнічаў у падрыхтоўцы да друку "Свабоды". Але, маючы за сабой пэўны досьвед працы ў вучнёўскім гуртку ў менскай гімназіі, ён пачаў прэтэндаваць на ролю лідэра беларускага руху ў Пецярбургу[39].

Гэта, відаць, прывяло да канфлікту з Іваноўскім, у выніку шляхі двух дзеячоў у першых месяцах 1903 г. на пэўны час разышліся. Гэта, аднак, не аказала істотнага ўплыву на ідэйныя пазыцыі сяброў абедзьвюх арганізацыяў, для якіх і сацыялістычны, і нацыянальны кірункі былі блізкія. Зрэшты, гэтых сяброў было няшмат.

Вясною 1903 г. Іван Луцкевіч распачаў стварэньне БРГ і, між іншым, зьбіраў грошы на куплю беларускіх пэпээсаўскіх брашур, але ў траўні яго арыштавалі[40] за кантакты з расейскімі эсэрамі, што на некалькі месяцаў зацягнула арганізацыйную падрыхтоўку. БРГ была ўтвораная, напэўна, увосені 1903 г., бо ўжо ў лістападзе і сьнежні пэпээсаўскія крыніцы зноў паведамлялі пра існаваньне беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Пад канец сьнежня 1903 г. у Вільні адбылася першая канфэрэнцыя БРГ, на якой была зацьверджана яе праграма. Акрамя праграмы, БРГ ня выдала ніводнай самастойнай адозвы або публікацыі, якая пацьвердзіла б факт яе існаваньня. Не сустракаецца ў літаратуры і якіх–кольвек іншых згадак пра дзейнасьць БРГ. Нягледзячы на запрашэньне, яна не даслала сваіх дэлегатаў на канфэрэнцыю апазыцыйных і рэвалюцыйных партыяў Расейскай імпэрыі, што адбылася ў Парыжы ў верасьні 1904 г.[41].

Выглядае на тое, што БРГ нагадвала хутчэй інтэлігенцкі клюб, чым палітычную партыю. Па сутнасьці, яна мала чым адрозьнівалася ад сваёй папярэдніцы — БРП, якая, тым ня менш, пакінула заўважныя сьляды сваёй дзейнасьці. Шмат гадоў пазьней Вацлаў Іваноўскі палічыў за лепшае забыцца пра гэтыя падзеі, затое Антон Луцкевіч часта зьвяртаўся да іх, спадзеючыся пераканаць новыя пакаленьні ў тым, што творцам беларускага руху, а дзеля гэтага і нацыянальнага адраджэньня, быў яго брат, Іван Луцкевіч. Гэтаму пярэчылі факты, асабліва — БРП, таму Антон проста ігнараваў яе, а выдадзеныя гэтай партыяй публікацыі прыпісваў альбо Кругу беларускай народнай прасьветы (адозва "Да інтэлігенцыі"), альбо Беларускай рэвалюцыйнай грамадзе ("Свабода")[42].

Гэта было парушэньне правілаў добрага тону, якое магло зьнеахвоціць людзей слабых або эгацэнтрычных працягваць дзейнасьць. Мы, аднак, паўстрымаемся ад высноваў наконт рысаў характару студэнта Іваноўскага: акрылены вялікай ідэяй, ён толькі

---

[37] Тамсама.

[38] Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 143.

[39] Г.Б. (Луцкевіч А.) Дваццатыя ўгодкі БРГ // Змаганьне. 1923. 23 сьнежня. № 21; Памяці Яна Луцкевіча. Вільня, 1920. С. 7—8.

[40] А. Луцкевіч паведамляе, што яго брата арыштавалі перад 1 траўня 1903 г. Гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 89, 145. — *А.С.*

[41] Туронак Ю. Узаемадачыненьні ППС зь беларускім рэвалюцыйным рухам у 1902—1906 гадох. С. 55—65 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

[42] Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 143, 147; Народная Справа. 1926. 21 верасьня.

ступіў на цяжкі і небясьпечны шлях да яе рэалізацыі. Зрэшты, ён мусіў здаваць сабе справу, што на гэтым шляху яго чакаюць нашмат горшыя сытуацыі. Дый не было чаго асабліва ламаць дзіды. У Расейскай імпэрыі пакуль што — у 1903 г. — панаваў спакой, і ня толькі беларускія, але й іншыя рэвалюцыйныя арганізацыі ня мелі надта многа працы. Затое справа нацыянальнай сьвядомасьці не цярпела адкладу: яе трэба было абуджаць і дзеля гэтага — яднаць і разьвіваць творчыя сілы, выдавецкую і асьветніцкую дзейнасьць, адным словам — рухаць у жыцьцё пастуляты, вызначаныя ў адозьве "Да інтэлігенцыі". Таму пасьля сутыкненьня з Луцкевічам Іваноўскі распачаў рэалізацыю сваёй праграмы і стварыў у Пецярбургу — на ўзор польскага — Круг беларускай народнай прасьветы.

Круг быў прыватным пагадненьнем людзей добрай волі, натхнёных супольным імкненьнем выдаваць і папулярызаваць беларускую кнігу. Тым ня менш, нягледзячы на такую памяркоўную праграму, ён ня мог існаваць легальна, бо такая дзейнасьць супярэчыла русіфікатарскай палітыцы царызму. Для таго, каб прадухіліць рост непажаданых сэпаратысцкіх тэндэнцыяў, расейскія ўлады тармазілі разьвіцьцё беларускай мовы і літаратуры, перадусім шляхам ужываньня ўсёабсяжных абмежаваньняў і забаронаў на друк. У 1899 г., забараняючы кнігу Ф. Багушэвіча "Беларускія апавяданьні"*, цэнзура выказала асьцярогу, "ці ня крыецца ў такіх творах тэндэнцыя стварэньня, апрача «маларускай», яшчэ і беларускай літаратуры, а тым самым падрыву і аслабленьня адзінства літаратуры і нацыянальнасьці, а ў выніку — таксама палітычнай магутнасьці расейскага народу"[43]. Крыху раней кіеўскі цэнзар Рафальскі, пішучы пра беларускі нацыянальны друк, заклікаў: "Трэба яго задушыць у пачатках, у зародку, бо пазьней у нас будзе такі ж самы клопат, як з украінафільствам"[44]. У выніку гэтых тэндэнцыяў на тэрыторыі Расейскай імпэрыі з часоў паўстаньня 1863 г. да 1900 г., г.зн. амаль за сорак гадоў, выйшла ўсяго толькі 9 кніжачак маралізатарскага ці фальклярыстычнага зьместу, іх агульны аб'ём не перавышаў 160 старонак невялікага фармату[45]. Да таго ж, частка зь іх мела расейскамоўныя тытульныя старонкі, і таму гэтыя кнігі афіцыйна лічыліся расейскімі выданьнямі (да прыкладу, ананімная паэма "Тарас на Парнасе", якую прымалі за народны твор). Практычна можна гаварыць пра забарону на друк беларускіх кніжак, хоць фармальна яна датычыла толькі выданьняў з лацінскім алфавітам.

У такіх умовах Іваноўскі пачаў прабіваць дарогу беларускай кнізе. У 1903 г. ён распачаў у Пецярбургу легальную і нелегальную выдавецкую дзейнасьць, апрача таго, арганізаваў друк беларускіх кніжак за мяжой ды іх нелегальны перавоз у Расейскую імпэрыю. Пры гэтым яму даводзілася здабываць грашовыя сродкі, знаходзіць надзейных памочнікаў — аўтараў, перакладнікаў і распаўсюднікаў нелегальных і замежных выданьняў. Яму даводзілася, нарэшце, выпрацоўваць мэтады паводзінаў, якія гарантавалі б максымальную бясьпеку пры нелегальнай працы — натуральна, ён не хацеў падзяліць лёсу брата Юр'я ці падстаўляць сваіх супрацоўнікаў пад такія непрыемнасьці. Каб даваць рады такім шматбаковым задачам, трэба было мець ня толькі рашучасьць, але і магутны інтэлект і вынаходлівасьць, якія кампэнсавалі б недастатковую яшчэ жыцьцёвую дасьведчанасьць 23–гадовага Вацлава. Прыгледзьмася, як вырашаў ён гэтыя праблемы.

Пад эгідай Круга беларускай народнай прасьветы ў Пецярбургу былі выдадзеныя дзьве нелегальныя публікацыі — "Калядная пісанка" і "Велікодная пісанка". Першая зь іх выйшла перад сьвятам Божага нараджэньня 1903 г., другая — перад Вялікаднем 1904 г. Распаўсюджваць іх меліся студэнты, што разьяжджаліся ў той час на вакацыі ў свае родныя старонкі. Абедзьве "Пісанкі" былі надрукаваныя на ўжо згаданым гектографе па некалькі дзясяткаў асобнікаў кожная. У "Пісанках" былі зьмешчаныя вершы Алёйзіі

* Поўная назва публікацыі — "Беларускія апавяданьні Бурачка". — *Рэд.*

[43] Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. Мінск, 1968. С. 166.

[44] Тамсама.

[45] Гл. арт. "З гісторыі беларускага выдавецкага руху ў 1902—1905 гадох". С.41—54 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

Пашкевіч, Казімера Кастравіцкага, Францішка Ўмястоўскага ды іншых паэтаў, а таксама апавяданьне Стэфана Жаромскага "Да свайго Бога" аб перасьледзе ўніятаў на Падляшшы ў перакладзе Антося Дурнога. Гэта быў, мабыць, псэўданім Іваноўскага, на што паказваюць моўныя асаблівасьці і канструкцыя яго іншых псэўданімаў (Антось Асіна і Антось Хатні). Цікавай пазыцыяй, зьмешчанай у "Велікоднай пісанцы", была бібліяграфія дагэтулешняй беларускай мастацкай і навуковай літаратуры. Такім чынам, апрача аднаго раней апублікаванага верша Яна Неслухоўскага (псэўданім Янка Лучына) — "Роднай старонцы", — у абедзьвюх "Пісанках" быў зьмешчаны хоць і сьціплы, але арыгінальны творчы даробак, і гэта значыла, што на шляху да ажыцьцяўленьня праграмы, вызначанай у адозьве "Да інтэлігенцыі", быў зроблены першы крок[46].

Большае значэньне для папулярызацыі беларускай літаратуры мела выданьне ў Пецярбургу дзьвюх невялічкіх кніжачак: зборніка вершаў Яна Неслухоўскага (Янкі Лучыны), памерлага ў 1897 г., — "Вязанка" (1903) і народных "Казак" (1904 г.). Абедзьве кніжкі былі выдадзеныя легальна, з згоды цэнзуры. Выйшлі яны ў мясцовай польскай друкарні К. Пянткоўскага накладам 5000 асобнікаў кожная. Зразумела, што іх нельга было выдаць пад эгідай нелегальнага Круга, таму яны выйшлі ў сьвет стараньнямі прыватных асобаў, якія, аднак, пажадалі захаваць ананімнасьць. З гэтай прычыны на тытульным аркушы "Вязанкі" ўвогуле не было выдаўца, а ў зборніку "Казкі" значыліся толькі яго ініцыялы — "А.К.".

Выхад "Вязанкі", у тэксьце якой гучалі выразныя патрыятычныя акцэнты, у тагачасных палітычных умовах быў зьявішчам надзвычайным. Няма дзіва, што акалічнасьці гэтага выданьня здаўна інтрыгавалі дасьледчыкаў беларускай літаратуры. Бадай, першым выказаўся на гэты конт у 1914 г. Лявон Гмырак, які ў самых агульных рысах сьцьвярджаў, што кніжка была выдадзеная беларускім студэнцкім гуртком і прадстаўленая цэнзуры як зборнік паэзіі на баўгарскай мове[47]. Пазьней, у міжваенны пэрыяд, сьцьвярджалася, што яе выдаўцом быў Іван Луцкевіч, нягледзячы на той факт, што ў часе яе выданьня ён сядзеў у турме[48].

Пад сумнеў ставілася і "баўгарская" вэрсія. Сам В. Іваноўскі доўга маўчаў у гэтай справе і толькі падчас апошняй вайны (01.10.1943) паведаміў свайго супрацоўніка, Аўгена Калубовіча, пра акалічнасьці выхаду ў сьвет "Вязанкі". Ён пацьвердзіў свой удзел у выданьні[49], а таксама і той факт, што цэнзуры яе прадставілі як кнігу на баўгарскай мове, да чаго схіліў супрацоўнік унівэрсытэцкай бібліятэкі Браніслаў Эпімах–Шыпіла[50]. Гэта была не адзіная дэзынфармацыя Іваноўскага, каб зьбіць з панталыку царскія ўлады.

У адрозьненьне ад "Вязанкі", зборнік "Казкі" не прыцягваў дагэтуль увагі дасьледчыкаў, бо, па сутнасьці, быў звычайным перадрукам некаторых тэкстаў, сабраных расейскім этнографам П.В. Шэйнам. Тым ня меней паходжаньне гэтага зборніка мае для нас істотнае значэньне. Параўнальны аналіз тэкстаў паказаў, што чалавек, які рыхтаваў "Казкі" да друку, выкарыстаў у сваім выданьні дагэтуль не ўжываныя ў беларускім правапісе памякчальныя знакі ў выглядзе апострафаў. Адзіным прыхільнікам такога правапісу ў той час быў Казімер Кастравіцкі, значыцца, толькі яму мог даверыць В. Іваноўскі падрыхтоўку да друку гэтай кніжкі. Іваноўскі пазнаёміўся з Казімерам у яго бра-

---

[46] Александровіч С. Тамсама, с. 73.

[47] Гмырак Л. Беларускае нацыянальнае адраджэньне // Велікодная пісанка. Вільня, 1914. С. 17.

[48] Зямкевіч Р. Ян Неслухоўскі (Янка Лучына) і яго неведамыя вершы // Нёман. 1932. № 2. С. 59.

[49] Як піша ў газэце "Ніва" за 16 сьнежня 2001 г. гісторык А. Глагоўская, "кніжачку беларускіх вершаў" Я. Лучыны дапамог паэту — "хаця пасьля сьмерці" — выпусьціць ягоны пляменьнік (сын ягонай сястры) А. Неканда–Трэпка, які вучыўся ў Пецярбургу аднaчасова з В. Іваноўскім і ўваходзіў у Круг беларускае народнае прасьветы і культуры. Гэта значыць, што А. Неканда–Трэпка мог перадаць выдаўцам рукапісы твораў, уключаных у "Вязанку". — *А.С.*

[50] Ліст А. Калубовіча да аўтара ад 14.03.1979.

та, лекара Амброжага Каствавіцкага, які ў 1901 г. жыў у Лідзе. Вацлаў пасябраваў з абодвума і неўзабаве намовіў іх заняцца беларускай выдавецкай дзейнасьцю, першага — як аўтара, другога — як фінансавага спонсара. Не падлягае сумневу, што выданьне зборніка "Казкі", падрыхтаванае да друку Казімерам, фінансаваў яго брат, Амброжы Кастравіцкі, чые ініцыялы "А.К." апынуліся на тытульным аркушы кніжкі.

Супрацоўніцтва В. Іваноўскага з Кастравіцкімі мела цікавыя і важныя наступствы. Жонка Амброжага, Марыя з Багушэўскіх, памешчыца зь Меншчыны, мела малодшага брата, Сьцяпана Багушэўскага, які з 1901 г. вучыўся ў Ягелонскім унівэрсытэце і гасьцяваў у сястры і швагра ў Лідзе. Тут летам 1903 г. зь ім пазнаёміўся Іваноўскі і схіліў да ўдзелу ў новай выдавецкай ініцыятыве: друку беларускіх кніжак у Кракаве, які ў той час належаў Аўстра–Вугоршчыне. Відаць, Багушэўскі прыняў гэты праект ахвотна, бо пазьней ажыцьцявіў яго вельмі ўдала. Перш за ўсё, ён прыцягнуў да супрацоўніцтва свайго сябра з часоў вучэньня ў Менскай гімназіі, Мар'яна Фальскага, студэнта Варшаўскай палітэхнікі.

Так тры студэнты прыйшлі да таемнага пагадненьня і распачалі сваю дзейнасьць. Пад псэўданімам *Янка Сваяк* М. Фальскі да канца 1903 г. пасьпеў перакласьці на беларускую мову тры апавяданьні: "Янку–музыканта" Генрыка Сянкевіча, "Да свайго Бога" Стэфана Жаромскага і "Ведзьму" невядомага аўтара. Апрача таго, ён апрацаваў тэкст адозвы "Царская гаспадарка", дзеля якой выкарыстаў пэпээсаўскія беларускія брашуры, галоўным чынам — "Гутарку аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць". Нарэшце, быў падрыхтаваны томік беларускіх вершаў Багушэвіча, Пашкевічанкі і Кастравіцкага пад назвай "Песьні". Гэтак жа, як і "Царская гаспадарка", зборнік быў прызначаны для рэвалюцыйнай агітацыі і таму выйшаў ананімна. Пра грошы падбаў Іваноўскі. Не дачакаўшы падтрымкі ад ППС, ён зьвярнуўся да сястры сваёй нявесты, славутай піяністкі Катажыны Ячыноўскай, якая ахвяравала неабходную суму на пакрыцьцё друкарскіх выдаткаў.

На пачатку 1904 г. Багушэўскі перавёз рукапіс і грошы ў Кракаў. Ён адразу пачаў ствараць пры Ягелонскім унівэрсытэце суполку пад назвай Акадэмічны краязнаўчы беларускі гурток, які быў неабходны як юрыдычная інстытуцыя для самастойнай выдавецкай дзейнасьці. Багушэўскі распрацаваў праект статуту Гуртка, які 9 сакавіка быў ухвалены ўнівэрсытэцкім сэнатам[51], і пераслаў яго на зацьвярджэньне імпэратарскаму намесьніку графу Анджэю Патоцкаму ў Львоў. Аднак Патоцкі адхіліў праект статуту, паводле якога сябрамі Гуртка маглі стаць ня толькі студэнты Ягелонскага ўнівэрсытэту, але "кожны, каго агульны сход прызнае да гэтага годным". Пра гэтую пастанову 2 красавіка 1904 г. была паведамлена дырэкцыя кракаўскай паліцыі і сэнат Ягелонскага ўнівэрсытэту з пажаданьнем азнаёміць зь ёй студэнта Багушэўскага не пазьней як 12 красавіка[52]. Пасьля гэтага тэрміну Гуртку заставалася толькі выканаць фармальнасьці, неабходныя для самаліквідацыі.

Багушэўскі выкарыстаў паўнамоцтвы, адведзеныя правам для таварыстваў падчас рэгістрацыі, замовіў пячатку Гуртка і зрабіў фармальную замову на друкаваньне прывезеных рукапісаў у кракаўскай друкарні Ўладзіслава Тэадарчука. Тэадарчук, дасьведчаны сацыялістычны дзяяч, добра разьбіраўся ў гэткіх справах і пастараўся выканаць замову імгненна, так што ў першай палове красавіка 1904 г. Багушэўскі ўжо мог забраць з друкарні "Песьні", "Янку–музыканта", "Ведзьму" і адозву "Царская гаспадарка". Засталося ненадрукаваным толькі апавяданьне Стэфана Жаромскага "Да свайго Бога" — хутчэй за ўсё, з прычынаў чыста тэхнічных: яно было занадта кароткае, каб скласьці асобную брашуру, бо налічвала толькі дзьве старонкі. Праз колькі месяцаў яго выдалі ў Вільні літаграфічным спосабам. Такім чынам, і году не прайшло, як Багушэўскі пасьпеў

[51] Пратаколы паседжаньняў акадэмічнага сэнату, архіў Ягелонскага ўнівэрсытэту ў Кракаве. S. II, 84.
[52] Акты Беларускага акадэмічнага гуртка пры Ягелонскім унівэрсытэце ў Кракаве. Тамсама, s. II, 797.

выканаць праект, выкарыстаўшы часавы ліміт, адведзены на легалізацыю Беларускага гуртка пры Ягелонскім унівэрсытэце[53]. Аднак і пасьля адмовы легалізаваць Гурток В. Іваноўскі ня страціў надзеі на выданьне беларускіх кніжак у Кракаве нейкім іншым спосабам. Пра гэта сьведчаць два апытальнікі, выдадзеныя Багушэўскім, з падрабязнымі пытаньнямі пра грамадзка–эканамічнае і культурна–асьветніцкае становішча жыхароў беларускіх вёсак і мястэчак. Яны датычылі, між іншым, рэлігійных і моўных стасункаў, стану школаў, бібліятэк, характарыстыкі іх кнігазбораў, навыкаў чытаньня і пісьма, попыту на кнігі і г.д. Асабліва красамоўна выглядае наступнае пытаньне апытальніка: “Які прыём можа сустрэць у гэтай ваколіцы народная літаратура на беларускай мове, друкаваная лацінскімі літарамі і не абмежаваная расейскай цэнзурай?”[54]

Такім чынам, апытальнікі сьведчылі ня толькі пра далейшыя выдавецкія пляны, але, перш за ўсё, пра намер гэтых маладых людзей арганізаваць плянамернае пашырэньне беларускіх кніжак на падставе выяўленьня патэнцыйнага попыту насельніцтва. Варта заўважыць, што абодва апытальнікі выходзілі не пад шапкай кракаўскага гуртка — на знойдзеных асобніках стаяў адно толькі яго штэмпэль. Значыцца, рабіліся яны для шырокага ўжытку — для пецярбурскага Круга беларускай народнай прасьветы, а таксама — для будучых арганізацыяў і паасобных дзяячоў.

Тым часам надрукаваныя Тэадарчуком кніжкі апынуліся на складзе выдавецкай суполкі “Książka”, якая разьмяшчалася ў Кракаве на вуліцы Гродзкай, 50. Гэтая суполка была галоўным складам беларускіх выданьняў, адкуль іх паступова перапраўлялі ў Расейскую імпэрыю[55]. Таму трэба спыніцца на яе работніках. Вось жа, кіраўнікамі “Książki” былі польскія сацыялісты — адвакат Зыгмунт Марак, Леан Васілеўскі і Баляслаў Енджаёўскі, а сябрамі — між іншым, друкарня Тэадарчука і Вітальд Ёдка–Наркевіч, які разам з рэдакцыяй “Przedświtu” пераехаў зь Лёндану ў Кракаў[56]. Гэта невыпадковае ўдакладненьне: менавіта Енджаёўскі атрымаў рукапісы “Гутаркі” ды іншых беларускіх агітацыйных брашур, дасланых з Гарадзеншчыны, у 1902 г., пераправіў іх Ёдку–Наркевічу ў Лёндан, а гэты апошні наладзіў там іх друк[57]. Цяпер гэтыя людзі сутыкнуліся з ініцыятывай Іваноўскага і дапамаглі яе ажыцьцявіць, нягледзячы на нядаўнія крытычныя заўвагі ў “Przedświcie”. Такім чынам, стаўленьне польскіх сацыялістаў у Кракаве да беларускай кніжкі было значна лепшае, чым стаўленьне ЦРК ППС і асабліва Пілсудзкага.

Тэксты, выдадзеныя ў Кракаве, друкаваліся часткова лацінкай (“Янка–музыкант”, “Ведзьма”), а часткова — кірыліцай (“Песьні” і адозва). Для большай бясьпекі падчас перавозу, распаўсюджаньня і выкарыстаньня на тэрыторыі Расейскай імпэрыі на іх не пазначылі месца выданьня, а пад адозвай “Царская гаспадарка” не было подпісу ніякай арганізацыі. У той жа час на вокладцы “Песень” надрукавалі цалкам фікцыйныя подпісы, “Дозволено цензурою СПб. (Санкт–Пецярбургу. — *Ю.Т.*) 17 декабря 1903 г.” і “Синодальная типография”. Невядома, ці зьбіла гэта з панталыку расейскую паліцыю, затое вядома, што цэлых восемдзесят гадоў беларускія дасьледчыкі не маглі разабрацца з акалічнасьцямі выданьня гэтай адозвы і “Песень”. Гэтак, Я. Карскі лічыў, што адозву выдала Беларуская сацыялістычная грамада, а А. Луцкевіч — што Сацыялістычная партыя Белай Русі[58]. Памыляліся і наконт паходжаньня зборніка “Песьні”:

---

[53] Туронак Ю. З гісторыі беларускага выдавецкага руху у 1902—1905 гадох. С. 41—54 гэтага выд. — *Рэд.*
[54] Абодва апытальнікі знаходзяцца ў папцы з адозвамі з падаўстрыйскай Польшчы (1892—1918) у ЦА ЦК ПАРП, 305/VI/4, pt. 12.
[55] Ліст Вацлава Іваноўскага да Аляксандра Ельскага ад 31.05.1905 г. AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_2$.
[56] Дакумэнты выдавецкай суполкі “Książka”, Дзяржаўны ваяводзкі архіў у Кракаве, IT 1603.
[57] Лісты Вітальда Ёдкі–Наркевіча да Баляслава Енджаёўскага ад 21.09.1902 і 20.10.1902 г., ЦА ЦК ПАРП, 305/VII/49, pt. 1.
[58] Карский Е.Ф. Белорусы. Т. III. Ч. 3. Петроград, 1922. С. 155; Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 151.

яго лічылі або справай БСГ (Я. Карскі), або БРП, або вынікам супрацы БРГ і ППС (М. Багдановіч)[59]. Яшчэ ня так даўно лічылася, што гэтая кніжка выйшла ў Лёндане, гэтак жа, як і ранейшыя агітацыйныя брашуры[60]. Даволі агульнае ўяўленьне меў пра гэтыя выданьні і Леан Васілеўскі[61]. Тым часам пасьля зрыненьня царызму справа перастала быць таямніцай. Ужо пад канец 1918 г. Фрыц Куршман паведамляў, што кракаўскія публікацыі былі зроблены з даручэньня пецярбурскага Круга беларускай народнай прасьветы[62]. Аднак ніводзін з пазьнейшых дасьледчыкаў не зьвярнуў на гэта ўвагі.

У суме з ініцыятывы Вацлава Іваноўскага ў 1903—1904 г. у Пецярбургу і Кракаве выйшла друкам восем невялікіх кніжак. Гэтага, натуральна, было мала, але не нашмат менш, чым было выдадзена ў Расеі за ўвесь час пасьля паўстаньня 1863 г. У такім аспэкце гэта выглядала як сур'ёзнае дасягненьне. Разам з тым такі досьвед дазволіў хутка ўсьвядоміць вялікія цяжкасьці ў разьвіцьці выдавецкай дзейнасьці, зьвязаныя з адсутнасьцю адзіных лексычных і правапісных нормаў. Па сутнасьці, кожны аўтар або перакладчык кіраваўся ў гэтай галіне ўласнымі меркаваньнямі. Прывесьці іх у адзіную сыстэму стала надзвычай важнай і пільнай задачай. Не выпадкова сярод задачаў адозвы "Да інтэлігенцыі" на першым месцы стаяла напісаньне мовазнаўчых працаў і выданьне граматыкі беларускай мовы, для стварэньня якой меркавалася прыцягнуць спэцыялістаў. Невядома, ці зьвяртаўся да каго Іваноўскі ў гэтай справе, аднак застаецца фактам, што за яе ня ўзяўся ніводзін спэцыяліст, у тым ліку — і Яўхім Карскі, якога ўважаюць за стваральніка беларускага мовазнаўства.

З гэтай прычыны, а таксама дзеля ўзрастаючых асьветных патрэбаў В. Іваноўскі вырашыў сам заняцца распрацоўкай беларускага лемантара, які ў пэўнай ступені мог бы згладзіць адсутнасьць граматыкі і стаць практычным моўным даведнікам таксама для аўтараў і выдаўцоў. Няма сумневу, гэтую задуму ён меў ужо даўно, самае позьняе — з 1902 г., але ажыцьцяўляць яе пачаў толькі ў другой палове 1904 г.

Летам таго году ён скончыў Тэхналягічны інстытут у Пецярбургу[63], пасьля чаго выехаў на колькімесяцовую практыку ў Баравічкі пад Плоцкам. Выбар быў невыпадковым: у Плоцку жыла сям'я Люцыяна Альтбэрга, зь якім Іваноўскага зьвязвала сяброўства ў пару студэнцтва, а таксама — пэўны сямейны скандал. Справа ў тым, што брат Вацлава, Тадэвуш, ажаніўся з Марыяй Вольскай — дзяўчынай жыдоўскага паходжаньня, якая неўзабаве яго кінула і выйшла замуж за Люцыяна, які таксама паходзіў з даўно спольшчанай жыдоўскай сям'і. Так узьнік квазісямейны хаўрус. Вацлаў стаў частым госьцем у Альтбэргаў, балазе нагоды для гэтага здараліся часта, бо адначасна тады ён выкладаў хімію ў Плоцкай гімназіі.

Дзякуючы гэтым кантактам ад сястры Люцыяна Марыі Альтбэрг (у замужжы — Арнольдзіхі) удалося атрымаць цікавую інфармацыю пра жыцьцё В. Іваноўскага ў Баравічках і Плоцку:

> Іваноўскі ўмеў выкладаць хімію ясна і займальна. Мая сястра Ганна вучылася тады ў гімназіі і памятае, як захапляліся яго лекцыямі. Яны паўплывалі на выбар яе будучай унівэрсытэцкай спэцыяльнасьці (цыталёгія). Тады ішло змаганьне за ўвядзеньне польскай мовы ў школах. Іваноўскі намовіў дачку дырэктара гімназіі, расейку, прачытаць заяву бацькоў аб выкладаньні навукі на польскай мове. Дапамагаў ён і маёй маці, Паўліне, у арганізацыі пазашкольных курсаў, здабыцьці падручнікаў ды іншых навучальных клопатах. Акурат тады прыяжджала яго нявеста,

[59] Карский Е.Ф. Тамсама; Бурбіс А. Тамсама. С. 179; Багдановіч М. Збор твораў. Т. ІІ. Мінск, 1968. С. 230.
[60] Александровіч С. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971. С. 118—119.
[61] Wasiliewski L. Litwa i Białoruś. Kraków, 1912. S. 278.
[62] Curschmann F. Die Weißruthenen. Ein erwachendes slavisches Bauernvolk // Deutsche Rundschau. Bd. I, 1918. S. 286.
[63] Łoza S. (red.) Czy wiesz, kto to jest? Warszawa, 1938. S. 273.

Сабіна Ячыноўская, якая разам зь іншымі езьдзіла ў Баравічкі, вазіла нелегальную сацыялістычную літаратуру. За гэта яе арыштавалі, вызвалілі пад заклад, які выдаў мой бацька, Мар'ян. Люцыян часта бываў у Іваноўскага ў Баравічках і бачыў, як ён карпеў над складаньнем беларускага лемантара. Брат гаварыў пра гэта часта і з пэўнай іроніяй, маўляў, гэта дзяцінства, фантазіі: “Такі сур'ёзны чалавек займаўся беларускім лемантаром! Ды гэта ж дыялект, а ня мова...” Ах, калі б брат быў разумнейшым, ён бы ведаў, што нават адзін чалавек у гэтай галіне мог зрабіць пераварот. Бо з гэтага лемантара вырасла цяпер уся беларуская літаратура. Акурат тады прыяжджаў у Плоцак Мар'ян Фальскі, сустракаўся з Іваноўскім, і разам яны раіліся наконт лемантара[64].

І сапраўды, дзіўная сытуацыя: два маладыя інжынэры безь філялягічнай ці пэдагагічнай адукацыі абмяркоўваюць праблему напісаньня лемантара! Але ж, як вядома, “не сьвятыя гаршкі лепяць”, паколькі Фальскі стаў пазьней аўтарам аднаго з найлепшых польскіх лемантароў. І ўсё–такі Іваноўскі быў у больш складаным становішчы: ён ня мог абаперціся ні на якія ўзоры ці досьвед. Распачатыя ў канцы XIX ст. дасьледаваньні расейскіх лінгвістаў беларускай мовы былі важныя з навуковага гледзішча, але ня мелі прытарнаванага значэньня. Выдадзены ў Варшаве “Лемантар для добрых дзетак–каталікоў” (1862) таксама не зьмяніў сытуацыі, бо, па сутнасьці, гэта была катэхізмоўка, якая, апрача назвы, мела мала супольнага з падручнікам, прызначаным вучыцца мове. Справа, за якую ўзяўся Іваноўскі, ня мела прэцэдэнту.

Важным пытаньнем, якое неабходна было вырашыць, быў выбар алфавіту. У гэтай галіне таксама не існавала вартых перайманьня ўзораў. У XIX ст. беларускія выданьні друкаваліся лацінкай або кірыліцай, што, з аднаго боку, тлумачылася розным веравызнаньнем беларусаў, а з другога — залежала ад культурнай і палітычнай накіраванасьці паасобных аўтараў. Існаваньне дваякага алфавіту для адной мовы было зьявішчам ненармальным, але на пачатку XX ст. гэтая праблема адступала перад іншай: неабходна было нэўтралізаваць нэгатыўныя вынікі рэлігійнага падзелу шляхам абуджэньня агульнанацыянальнай сьвядомасьці. У прадмове да лемантара Іваноўскі прывёў свае аргумэнты што да гэтай складанай справы:

Ведаем мы ўсе, што меж нами палешуками, беларусами, ци як мы сябе яшчэ называем — тутэйшыми йосьць каталики и праваслаўные, каталики больш да лацинских литэр — што йих несправядлива “польскими” называюць, прывыкли; праваслаўные — да славянских — ци як кажуць да “руских” прывыкли. Гэтые руские — гэтаж нашы спрадвечные беларуские, а лацинскими цяпер увесь сьвет пишэ. Ци раз у нас сварка бывае: зыдуцца каталик з праваслаўным и сваруцца “ах ты, кажэ, паляк, — а ты маскаль”. И абодва ня ведама што кажуць: ани той паляк, ани гэты маскаль, абодва яны хоць рознае веры, а народу аднаго, бо абодва вырасли на зямельцы тутэйшай палескай — беларускай и першае слова ў мови нашай бацькаўскай ад бацькоў пачули, а сваруцца тольки сабе на крыўду и на сорам, людзям на сьмех. Вось і знарок выдаем лемэнтар дваякими знаками, выбирай, што спанараўна, каб усяки пазнаў, што ци такие, ци сякие знаки, а зыки, склады и словы тыеж, мова — тояж и людзи што мовай адной гаворуць — браты родные[65].

Такім чынам, распрацоўка дваякага альфавіту для лемантара адпавядала канкрэтным сацыяльна–культурным умовам разьвіцьця Беларусі і, у адрозьненьне ад практыкі XIX ст., не надавала перавагі і не перабольшвала значэньне аднаго з двух традыцыйных алфавітаў.

Працуючы над лацінскім варыянтам лемантара, Іваноўскі ў вялікай ступені абапі-

[64] Паведамленьне Марыі Арнольдзіхі ад 17.05.1979.
[65] Беларускі лемантар, або Першая навука чытаньня. СПб., 1906. С. 4.

раўся на польскі лемантар Казімежа Промыка, адтуль ён пераняў мэтодыку навучаньня, канцэпцыю ўкладаньня матэрыялу і нават частку ілюстрацыяў. Затое арыгінальны быў дыдактычны матэрыял, узяты пераважна з жыцьця беларускай вёскі, каб вучням было лягчэй засвойваць сэнс прачытанага. Пры гэтым Іваноўскаму давялося распрацаваць беларускую мовазнаўчую тэрміналёгію ў неабходным для лемантара аб'ёме. Гэта былі базавыя тэрміны, якія зь цягам часу ўдасканаліліся, але большасьць засталася трывалым здабыткам беларускага мовазнаўства і была прынятая або ў тым самым гучаньні, або зь невялікімі фанэтычнымі і марфалягічнымі зьменамі. Замест ранейшых *cz, sz, ż* у лемантары ўводзіліся новыя знакі *č, š, ž,* напэўна, дзеля таго, каб відавочна адрозьніць беларускую лацінку ад польскага алфавіту. Гэтую працу Іваноўскі завяршыў увесну 1905 г. і пасьля вяртаньня ў Пецярбург перадаў яе Казімеру Кастравіцкаму, каб той апрацаваў кірылічны варыянт[66].

У пачатку 1905 г. у асабістым жыцьці Вацлава Іваноўскага адбыліся важныя зьмены. Пасьля заканчэньня практыкі ў Баравічках у студзені ён атрымаў працу ў лябараторыі харчовых прадуктаў Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту і пачаў досьледы над вырошчваньнем цукровых буракоў у Віленскай губэрні. Гэта была тэма яго будучай доктарскай працы. Тады ж узяў шлюб з Сабінай Ячыноўскай. Яго справілі 10.01.1905. у рыма–каталіцкім касьцёле ў Шаўлях, дзе нарадзілася нявеста. Яна была на два гады старэйшая за мужа, а гэта ня дужа адпавядала тагачасным звычаям. Таму Вацлаў "састарыў" сябе да 27 гадоў, а Сабіна "памаладзела" да 25, што і было зафіксавана ў шлюбным пасьведчаньні[67].

Сабіна была перадапошняй сярод дзевяцёх дзяцей банкаўскага службоўца Яна Ячыноўскага і Стэфаніі з роду Стравінскіх. Бацькі паходзілі зь Беларусі, але аселі ў Шаўлях, у Жамойці. Бацькі рана памерлі, і Сабіна выхоўвалася пад апекай старэйшага брата Цэзар'я — шавельскага ксяндза, пазьней вучылася ў гімназіі і на курсах Лесгафта ў Пецярбургу, жыла ў пансіёне сьв. Кацярыны, дзе выхавацелькай была яе сястра Станіслава, у замужжы Міхаловічыха. Паводле ўспамінаў дачкі Вацлава і Сабіны, Анны Іваноўскай–Карнэцкай, "матка была ў захапленьні ад беларускай дзейнасьці бацькі, высока цаніла яго ідэйныя пазыцыі і працавала зь ім разам. Дзецям сьпявала беларускія песьні, вучыла беларускіх малітваў і вершаў"[68].

У 1981 г., прыгадваючы гісторыю сям'і, Ганна цытавала адзін з гэтых вершаў:

Хацела б быць зярном пшаніцы,
Упасьць на ніўкі вёскі,
Зазалаціцца, безь мятліцы,
На хлеб смачнейшы трошкі.
Хацела б быць я рэчкай быстрай,
Абегчы родны край!..

Ганна ня ведала аўтара гэтага верша, але знайсьці яго было няцяжка. Гэта быў верш "Мае думкі" Алёйзіі Пашкевічанкі–Цёткі, якая разам з Сабінай жыла ў Пецярбургу. Верш гэты быў упершыню апублікаваны ў Львове ў 1906 г., так што Сабіна магла ведаць яго з зборніка паэзіі сваёй сяброўкі, але яшчэ больш падобна на тое, што яна чула яго жыўцом з вуснаў паэткі, а можа, і сама ўдзельнічала ў напісаньні, бо ў сямейнай памяці ён застаўся надоўга.

[66] Туронак Ю. Абставіны публікацыі і аўтарства першага беларускага лемантара. С. 31—40 гэтага выданьня. — *Рэд.*

[67] Сямейны архіў Анны Іваноўскай–Карнэцкай, дачкі Вацлава і Сабіны.

[68] Паведамленьне Анны Іваноўскай–Карнэцкай ад 22.10.1978 г. Ад шлюбу Вацлава і Сабіны нарадзілася трое дзяцей: Стэфан (1907—1944), Вацлаў (1910—1944) і Ганна (нар. у 1915).

Зьмянілася і стаўленьне Вацлава Іваноўскага да палітычнай дзейнасьці: у грамадстве насьпела незадавальненьне з прычыны непапулярнай расейска–японскай вайны, якое ў студзені 1905 г. прывяло да першай расейскай рэвалюцыі. Як пісаў у 1910 г. А. Луцкевіч, беларускі рух, які разьвіваўся да гэтай рэвалюцыі ў двух кірунках, "у вырашальны момант палітычнага ўздыму" зьліўся ў адно рэчышча"[69]. І хаця ў гэтым кароткім выказваньні не падавалася глыбейшых дэталяў, асабліва — прозьвішчаў, яно, без сумневу, азначала пачатак новага супрацоўніцтва паміж Луцкевічамі і В. Іваноўскім. Аднак гэта не было ўключэньнем Іваноўскага ў працу Беларускай рэвалюцыйнай грамады, бо ў момант "зьліцьця" дзьвюх плыняў такая арганізацыя ўжо перастала існаваць, а на яе месцы паўстала новае палітычнае згуртаваньне пад назвай Беларуская сацыялістычная грамада[70].

У сувязі з гэтым належыць даць пэўныя тлумачэньні. Ува ўсёй беларускай гістарыяграфіі пануе думка, быццам БРГ папросту прыняла новую назву — БСГ. Затое даты гэтага пераўтварэньня называюць розныя. А. Луцкевіч спачатку сьцьвярджаў, што гэта адбылося на першым зьезьдзе БРГ у канцы 1903 г., пазьней — нібыта на другім, у Менску, пад канец 1905 г.[71]. Большасьць сучасных гісторыкаў лічыць сапраўднай датай пераўтварэньня БРГ у БСГ канец 1903 г. Аднак заўважым, што на супольных антываенных адозвах, выдадзеных ППС, адна зь якіх выйшла ў траўні, а другая — у чэрвені або ліпені 1904 г., яшчэ значацца подпісы дзяячоў БРГ, а не БСГ[72]. Запрашэньне на верасьнёўскую канфэрэнцыю ў Парыжы таксама было адрасаванае БРГ[73]. Назва БСГ упершыню зьявілася на дэкларацыях Парыскай канфэрэнцыі, прычым БСГ далучылася да іх толькі пасьля, *post factum*[74]. Гэта адбылося, напэўна, у кастрычніку 1904 г., пра што сьведчыць ліст Ёдкі–Наркевіча ад 10.11.1904 г., дзе гаварылася аб тым, што беларуская партыя зьмяніла сваю назву на БСГ[75].

Ня станем закранаць пытаньня, наколькі зьмена назвы была зьвязаная з праграмай, вядома адно: В. Іваноўскі толькі пасьля гэтай падзеі далучыўся да БСГ. Для партыі гэта мела вялікае значэньне. Бо, выкарыстоўваючы свой выдавецкі досьвед, ён у вялікай ступені спрычыніўся да самастойнай прапагандысцкай дзейнасьці, якую БСГ распачала ў студзені 1905 г. У выніку, за адзін толькі 1905 г. партыя выдала больш за 20 адозваў на беларускай мове, а ў пачатку 1906 г. запусьціла ў Менску ўласную друкарню, а ў Пецярбургу — сваё выдавецтва "Грамада"[76]. Агульны наклад выдавецка–прапагандысцкай прадукцыі БСГ даходзіў да сотняў тысяч асобнікаў брашур і адозваў, якія распаўсюджваліся на Беларусі[77]. Гэта, між іншым, уплывала на актывізацыю страйкавага руху, асабліва сярод сельскагаспадарчых рабочых.

Рэвалюцыя 1905 г., якая передвызначыла вялікія зьмены ў расейскай дзяржаве, пабудзіла кіраўніцтва ППС зьвярнуцца да свайго даўняга намеру стварыць на тэрыторыі

[69] Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 38.

[70] Як далей паказвае аўтар, БСГ не была новым палітычным згуртаваньнем. Пра тое, што БРГ памяняла сваю назву да пачатку 1905 г., сьведчаць партыйныя ўлёткі 1905 г.: усе яны падпісаныя Беларускай сацыялістычнай грамадою. — *А.С.*

[71] Луцкевіч А. Тамсама, с. 37, 153.

[72] Гл. адозвы "Таварышы!" і "Браця мужыкі" ў ЦА ЦК ПАРП, 305/III/36 pt. 8.

[73] Przedświt. 1904. № 10—12. S. 1.

[74] Тамсама, с. 408, зноска.

[75] Ліст В. Ёдкі–Наркевіча ад 10.11.1904. ЦА ЦК ПАРП, 305/VII/49, pt. 2 (арк. № 688).

[76] Больш падрабязна пра брашуры гл.: Туронак Ю. З гісторыі беларускага выдавецкага руху... С. 41—54 гэтага выданьня. — *Рэд.*

Гл. таксама: Сідарэвіч А. Да гісторыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады: агляд крыніцаў // ARCHE. 2006. № 5. — *А.С.*

[77] Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 48.

Беларусі і Літвы аб'яднаную палітычную сілу. Дзеля гэтага польскія сацыялісты пад канец 1904 г. распачалі перамовы з БСГ. Паводле Мэнахіма Вайнэра, дзяяча ППС у Літве, у перамовах удзельнічалі два прадстаўнікі БСГ — В. Іваноўскі і А. Уласаў, якія дзеля гэтага прыяжджалі ў Вільню[78]. Такім чынам, Іваноўскі меў багата магчымасьцяў, каб ацаніць пазыцыю ППС да беларускага пытаньня і яе разыходжаньні з пазыцыяй БСГ, сузаснавальнікам і прадстаўніком якой быў ён сам. Зь яго боку, гэта была першая спроба фармуляваньня базавых палітычных прынцыпаў маладога беларускага руху ня толькі ў партыйнай плашчыні, але ў больш шырокім кантэксьце польска–беларускіх узаемадачыненьняў.

Першым крокам на шляху да вызначэньня плятформы паразуменьня было прыняцьце Беларускай сацыялістычнай грамадой рэзалюцыяў Парыскай канфэрэнцыі, дзе прадугледжвалася стварэньне кааліцыяў паміж рэвалюцыйнымі партыямі, якія дзейнічалі на тэрыторыі Расейскай імпэрыі. Наступны крок быў зроблены напярэдадні Жэнэўскай канфэрэнцыі, што адбылася ў сакавіку 1905 г.: была ўзгоднена пазыцыя ў справе вылучэньня гістарычнай Літвы (г.зн. — Літвы і Беларусі) у аўтаномны абшар расейскай дзяржавы з уласным рэгіянальным соймам у Вільні. Неўзабаве абедзьве партыі перайшлі да супрацоўніцтва ў арганізацыі страйкаў, між іншым, страйку работнікаў больніцы ў Новай Вялейцы (жнівень 1905 г.) або ўсеагульнага палітычнага страйку ў Вільні (сьнежань 1905 г.). ППС падтрымлівала таксама і прапагандысцкую дзейнасьць БСГ — даючы магчымасьць выпускаць некаторыя зь яе адозваў у сваіх друкарнях[79].

Пэўная частка кіраўніцтва ППС у гэты час з павагай ставілася да беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Але вырашальную ролю ў гэтай справе адыгралі тыя дзяячы (Пілсудзкі, Пэрль), для якіх супрацоўніцтва з БСГ было толькі тактычным ходам. І хаця афіцыйныя дакумэнты ППС па–ранейшаму абвяшчалі лёзунг раўнапраўя ўсіх нацыянальнасьцяў Беларусі і Літвы, на самай справе, як сьцьвярджае Анна Жарноўская, Пілсудзкі не прызнаваў роўнасьці палякаў і гэтых іншых нацыянальнасьцяў у справе самавызначэньня[80]. Гэтыя тэндэнцыі ўзмацніліся падчас першай расейскай рэвалюцыі, калі ў надзеі на аднаўленьне незалежнасьці Польшчы падыход да нацыянальнага пытаньня (як беларускага, гэтак і літоўскага), стаў больш канкрэтны, што выразілася ў жаданьні далучыць да складу будучай польскай дзяржавы Ковенскую, Віленскую, Гарадзенскую і Менскую губэрні[81]. Другім пунктам нязгоды, які перашкаджаў задуманаму ППС яднаньню сацыялістычных арганізацыяў, былі разыходжаньні ў аграрным пытаньні. Тут імкненьні БСГ і Літоўскай сацыял–дэмакратычнай партыі былі непрымальнымі для ППС, бо пагражалі інтарэсам польскіх земляўласьнікаў у Беларусі і Літве.

Пры такой сытуацыі зьвяз БСГ і ППС быў магчымы толькі на грунце барацьбы з царызмам. Але ў іншых галінах іх пляны на пэрспэктыву разыходзіліся, тут супрацоўнічаць было немагчыма, што і перадвызначыла лёс аб'яднаньня. ППС улічвала такую альтэрнатыву і не адмаўлялася ад задумы падпарадкаваць сабе БСГ іншым спосабам, ня самым добрасумленным, аднак нярэдка ўжываным у палітыцы. Дзеля гэтага ўвосень 1904 г. распачала сваю дзейнасьць створаная ППС арганізацыя пад назвай Сацыялістычная партыя Белай Русі (СПБР), якая для вонквых суб'ектаў мелася выступаць нібыта паралельная БСГ беларуская партыя. У яе ўвайшлі маладыя пэпэасаўцы, у тым ліку Мар'ян Фальскі, Францішак Завадзкі, браты Станіслаў і Казімер Трускоўскія, Браніслаў Шушкевіч, Адам Жаба. Паходзілі яны зь Беларусі, галоўным чынам — зь Меншчыны і Гарадзеншчыны, ведалі беларускую мову і мелі за сабою пэўны досьвед нелегальнай працы.

Апрача Варшавы, Горадні і Менску, дзе пэпэасаўцы гуртаваліся пад шыльдай СПБР,

[78] Wajner M. Do historii PPS na Litwie // Niepodległość. T. XV. 1937. S. 340.
[79] Туронак Ю. Узаемадачыненьні ППС... С. 55—65 гэтага выданьня. — *Рэд.*
[80] Żarnowska A. Geneza rozłamu w Polskiej Partii Socjalistycznej 1904—1906. Warszawa, 1965. S. 122—123.
[81] Тамсама.

гэтая "партыя" ня мела ніякіх іншых рэгіянальных арганізацыяў, а адзіным рэальным вынікам яе дзейнасьці было некалькі адозваў, выдадзеных у Варшаве па–беларуску, распаўсюджаньнем якіх займаліся пераважна сябры БСГ[82]. Дзеля гэтага ў Горадні з удзелам Аляксандра Прыстара і Валер'я Славэка была закладзеная беларуская друкарня, але напрыканцы 1904 г. яе выкрыла і зьліквідавала паліцыя[83]. Такім чынам, галоўнай мэтай СПБР была не канкурэнтная праца на месцах, але супрацоўніцтва з БСГ, якое мусіла прывесьці да аб'яднаньня дзьвюх партыяў, каб замацаваць гэткім чынам уплыў ППС на дзейнасьць Грамады. Дзеля гэтага ў канцы 1904 г. М. Фальскі распачаў перамовы з прадстаўнікамі БСГ, у т.л. з Іваноўскім, але спадзяваных вынікаў яны не прынесьлі. На думку Фальскага, прычына няўдачы заключалася ў немагчымасьці знайсьці супольную ідэалягічную плятформу: СПБР павінна была адстойваць сацыялістычную ідэалёгію, а БСГ не наважвалася зьмяніць сваю нацыяналістычную пазыцыю[84]. А. Луцкевіч, у сваю чаргу, ня бачыў супярэчнасьцяў у галіне сацыяльнай ідэалёгіі, а закіды ў нацыяналізьме на адрас Грамады тлумачыў "страхам перад будзіўшымся тады нацыянальным пачуцьцем у беларускіх масах"[85].

Аднак і гэтым разам А. Луцкевіч перабольшваў, калі наўмысна атаесамляў нацыянальную сьвядомасьць з рэвалюцыйнымі настроямі беларускіх народных масаў. На самай справе, цяжка было гаварыць пра масавае абуджэньне нацыянальнага пачуцьця ў 1905 г., калі выдавецкая дзейнасьць рабіла толькі першыя крокі і не выходзіла яшчэ ніводная беларуская газэта. Апалягеты БСГ часта ўказваюць на масавы характар гэтай партыі, але маўчаць пра тое, што яе рэальны палітычны ўплыў быў роўны нулю, паколькі ў 1906 г. яна не наважылася ўдзельнічаць у перадвыбарнай барацьбе за мандаты ў расейскай Дзяржаўнай думе[86], пасьля чаго ўлетку 1907 г. спыніла сваю дзейнасьць[87]. Таму захады ППС вакол БСГ рабіліся хутчэй з разьлікам на пэрспэктыву, найперш дзеля таго, каб скіраваць беларускі рух у рэчышча польскіх інтарэсаў.

У гэтай сытуацыі ў колах ППС асабліва разьлічвалі на В. Іваноўскага, бо яго ўважалі за свайго чалавека, які толькі гуляецца ў беларускія справы. Яго паходжаньне, сытуацыя брата Юр'я, які ў 1905 г. вярнуўся з высылкі ў Вільню і аднавіў сваю партыйную дзейнасьць, кантакты зь дзяячамі ППС, якія, праўда, выкарыстоўваліся для беларускага кнігавыданьня, — усё схіляла да такіх высноваў. Апрача гэтага, В. Іваноўскі быў выдатным дзяячом БСГ, пра што сьведчыў, між іншым, завочны выбар яго кандыдатуры ў Цэнтральны камітэт (які складаўся зь пяцёх чалавек), зроблены ў канцы сьнежня 1905 г. на партыйным зьезьдзе ў Менску[88]. Таму адной з мэтаў прыезду М. Фальскага ў Плоцак пад канец 1904 г. было намовіць В. Іваноўскага да паяднаньня БСГ з СПБР[89]. Але Іва-

---

[82] Беларускія адозвы СПБР выдаваліся з кастрычніка 1904 да кастрычніка 1905 г. Гл.: ЦА ЦК ПАРП, 305/II/42, Druki ulotne niepolskie. Пра іх распаўсюджаньне пры дапамозе БСГ гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 151.

[83] Szuszkiewicz B. Organizacja grodzieńska PPS w latach 1898—1910 // Niepodległość. T. XVI. 1937. S. 529.

[84] Falski M. Okruchy wspomnień (fragmenty) // Studia pedagogiczne. T. XXXI. 1974. S. 23. Гэтыя ўспаміны М. Фальскі напісаў у сярэдзіне 60–х г., г.зн. — праз 60 гадоў пасьля падзеяў, што ў іх апісваюцца, таму ня ўсе яго выказваньні гучаць у поўнай ступені пераканаўча.

[85] Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 151.

[86] Агульнавядома, што з ініцыятывы бальшавікоў выбары ў І Дзяржаўную думу сацыялістычныя партыі (БСГ, Бунд і эсэры) байкатавалі. Пазьней гэта было прызнана памылкаю. — *А.С.*

[87] Луцкевіч А. Тамсама.

Гэтак ня так. Пра тое, што БСГ працягвала сваю дзейнасьць і ў гады рэакцыі, А. Луцкевіч пісаў у артыкуле "Национальное возрождение белорусов" (гл. заўвагу 18). Вядома, што кожны год у Вільні пад прэтэкстам Купальля зьбіраўся беларускі актыў. Нашаніўцаў вінавацілі ў палітычнай дзейнасьці ў чарнасоценным друку (гл., напрыклад, артыкул А. Луцкевіча "Данос" у "Нашай Ніве" за 16 жніўня 1913 г.). — *А.С.*

[88] Хлябцэвіч Я. Цётка // Полымя. 1924. № 3. С. 142.

[89] Falski M. Okruchy wspomnień… S. 23.

ноўскі не гуляў у падвойную гульню і гэтак жа, як і ў 1902 г., стаяў на пазыцыі незалежнасьці беларускага руху. Слабасьць гэтага руху падчас рэвалюцыі ўзмацніла яго перакананьне ў тым, што незалежнасьць гэтая будзе толькі ўяўнай, калі ў беларускіх масах спачатку не пашырыцца нацыянальная сьвядомасьць, а для гэтага, у сваю чаргу, неабходнае было разьвіцьцё беларускай асьветы. Аднак гэта патрабавала далейшых вялікіх і працяглых намаганьняў.

## За нацыянальную сьвядомасьць

12 сьнежня 1904 г. цар Мікалай II падпісаў указ, які скасоўваў дагэтулешнія абмежаваньні на выкарыстаньне мясцовых моў у дзевяцёх заходніх губэрнях Расейскай імпэрыі — Валынскай, Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Кіеўскай, Ковенскай, Магілёўскай, Менскай і Падольскай. Гэтае рашэньне, прынятае напярэдадні першай расейскай рэвалюцыі, было для ўраду вельмі важным ходам, яно мела на мэце ўлагодзіць палітычную напружанасьць, што нарастала на фоне расейска–японскай вайны. Рэвалюцыйныя настроі сапраўды апаноўвалі тады вялікія абшары расейскай дзяржавы, але ў заходніх губэрнях яны мелі спэцыфічны характар — бо тут сацыяльныя перадумовы спляталіся з нацыянальным прыгнётам.

Палажэньні ўказу датычылі ня толькі польскай і літоўскай моў, самастойнасьць якіх — нягледзячы на абмежаваньні — ня ставілася пад сумнеў, але таксама беларускай і ўкраінскай, афіцыйна трактаваных як дыялекты расейскай. Такім чынам, адбылася істотная перамена ў дачыненьні да беларусаў і ўкраінцаў. Што было прычынай гэтага важнага і беспрэцэдэнтнага рашэньня? Распаўсюджаная думка, нібыта рэвалюцыя 1905 г. прымусіла цара выдаць такі ўказ, не вытлумачвае да канца ўсяе справы, асабліва матываў гэтага рашэньня. Па–першае, указ выйшаў яшчэ да рэвалюцыі, а па–другое, ніводная з палітычных партыяў, якія дзейнічалі тады на тэрыторыі Беларусі, не выстаўляла такога патрабаваньня ў дачыненьні да беларускай мовы. Аніякага ўзьдзеяньня на рашэньне цара ня мог мець і грамадзкі попыт на беларускую кнігу, якая на зломе XIX і XX ст. была яшчэ зьявішчам надзвычай рэдкім.

Такім чынам, рашэньне пра скасаваньне абмежаваньняў на беларускамоўны друк, без сумневу, было вынікам палітычнай сытуацыі, якая склалася на заходніх ускраінах імпэрыі. Непрызнаньне нацыянальнай самастойнасьці беларусаў і стрымліваньне разьвіцьця іх мовы і літаратуры спрыяла пашырэньню сярод інтэлігенцыі апазыцыйных настрояў, якія прыводзілі да супрацоўніцтва з польскім незалежніцкім рухам, што палягчала традыцыйныя ўплывы польскай культуры ў Беларусі. З гледзішча расейскіх інтарэсаў, асабліва небясьпечнай была актывізацыя дзейнасьці ППС, якая імкнулася да пашырэньня сваіх уплываў сярод беларусаў, украінцаў, літоўцаў і выкарыстоўвала агітацыйную літаратуру на іх родных мовах. Таму, ідучы ў галіне моўнай палітыкі насустрач культурным спадзевам інтэлігенцыі гэтых нацыяў, урад разьлічваў выклікаць іх сымпатыю да Расеі, а тым самым — стварыць сур'ёзную процівагу польскім палітычным уплывам.

Затое цяжка адназначна вырашыць, ці адлюстроўвала гэтае рашэньне ўраду сапраўднае прызнаньне беларускага народу на свабоднае разьвіцьцё сваёй мовы і літаратуры, ці яно было ўсяго толькі пытаньнем тактыкі. Аб прапагандысцкай накіраванасьці ўказу сьведчыць досыць абмежаваная сфэра ўжываньня беларускай мовы. У прыватнасьці, яе самастойнасьць так і не была афіцыйна прызнанай[1]. Не дапускалася ўжываць яе і ў дзяржаўных

[1] Прызнаваць мову самастойнай ці не прызнаваць — гэта вырашала спачатку Расейская акадэмія. Самастойнасьць украінскае мовы была прызнаная. Беларусам яшчэ належала давесьці, што іх мова самастойная. Пра тое, што гэта атрымалася, ускосна сьведчыць прызнаньне ў 1915 г. міністрам асьветы права беларусаў "вучыцца рэлігіі па-свойму". Гл.: а–н–а [Луцкевіч А.]. Першы крок // Наша Ніва. 1915. 19 сакавіка. — *А.С.*

школах, нават у такіх сыціплых прапорцыях, як польскую і літоўскую. Але варта заўважыць, што толькі ўвосень 1904 г. пачалася распрацоўка першага лемантара на гэтай мове, а да выхаду першай граматыкі заставалася яшчэ чатырнаццаць гадоў. Такім чынам, адсутнічалі найпрасьцейшыя перадумовы для імгненнай зьмены статусу беларускай мовы. Але, калі не ўдавацца глыбей у гэтую справу, можна з упэўненасьцю сьцьвярджаць, што ўказ Мікалая II стварыў легальныя падставы для дзейнасьці, накіраванай на зьмену статусу гэтай мовы ў будучыні. Папраўдзе, урад ня быў зацікаўлены ў тым, каб гэты працэс паскараць, але, у прынцыпе, і ня стрымліваў яго, пакідаючы яго ажыцьцяўленьне грамадзкім дзяячам.

Указ і рэвалюцыя прывялі да значнага росту цікавасьці да беларускай кнігі. Пра гэта сьведчаць захаваныя ў Галоўным архіве старадаўніх актаў лісты да Аляксандра Ельскага — пана з Замосьця Менскай губэрні, аўтара шматлікіх артыкулаў пра Беларусь, яе мінулае, мову і літаратуру, друкаваных у пецярбурскім “Kraju” ды іншых часопісах, аўтара і выдаўца некалькіх папулярных беларускіх брашур, нарэшце, перакладніка на беларускую мову першай кнігі “Пана Тадэвуша” Адама Міцкевіча, выдадзенай у 1893 г. у Львове. Цікава ахарактарызаваныя тагачасныя настроі ў лістох настаўніцы Ядвігі Ціхінскай з маёнтку Прусан з–пад Крычава Магілёўскай губэрні, напісаных А. Ельскаму ўлетку 1905 г. У першым зь іх ад 03.06.1905 г. Я. Ціхінская піша:

> Шаноўны пане! Пара было б сёньня ўзяцца за складаньне беларускага лемантара, калі б вы падумалі аб тым. З той пары, калі можна стала адчыняць прыватныя школы (мы ўжо таксама пачынаем будаваць і зьбіраць на гэта грошы), трэба даць падручнікі–лемантары і беларускія кніжкі. Ведаю, што вы пішаце па–беларуску. Мой бацька складае беларуска–польска–расейскі слоўнік, і гэта даказвае, што ён беларускі патрыёт... Прашу даслаць мне каталёг альбо сьпіс беларускіх кніжак і падаць адрас, дзе можна дастаць для сялян сёньня хоць пару асобнікаў...[2]

Ельскі адаслаў ёй некалькі кніжак і ўсьлед за гэтым атрымаў яшчэ адзін ліст ад 07.08.1905 г. наступнага зьместу:

> Я надзвычай удзячная Вам за прысланыя мне кніжкі, якія чытала з маімі хлапчукамі, каб яны маглі пазьней прачытаць на вёсцы сваім старым. Я беларуска з нараджэньня, бо з паходжаньня (напэўна, зь перакананьня — *Ю.Т.*) я полька і дзеля гэтага чую сябе абавязанай падтрымліваць іх родную мову, таму што ў іх мала сумленных апекуноў, асабліва — у нашай губэрні. Узімку дзякуючы маім намаганьням тут паўстае школа... Беларусь у мінулым была нашай малодшай сястрой, можа, будзе роўная з намі ў інтэлекце і самаадчуваньні — сёньня, хоць і адарваная ад нас, яшчэ чакае нашай дапамогі[3].

Аднак надзеі на адкрыцьцё легальных беларускіх школаў ня зьдзейсьніліся, таму ў розных мясцовасьцях краю арганізоўваліся нелегальныя. Як паведамляла Зоф’я Дабрынская, такую школку адкрыла яе маці, Леантына Корсак, у маёнтку Бардзіловічы Дрысенскага павету на Віцебшчыне[4]. Падобную школку арганізаваў Канстанцін Гардзялкоўскі ў Папоўцы Сянскога павету, таксама на Віцебшчыне[5], у якой настаўнічаў пазьней выдатны беларускі паэт і празаік Якуб Колас. Гэта былі не адзінкавыя зьявішчы, пра што сьведчыць стварэньне ў 1907 г. Беларускага настаўніцкага саюзу, які, зрэшты, неўзабаве ліквідавалі ўлады[6].

---

[2] AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_1$, k. 151—152.
[3] Тамсама, к. 147.
[4] Паведамленьне З. Дабрынскай ад 12.05.1984.
[5] Да красавіка 1919 г. Сянскі павет уваходзіў у склад Магілёўскай губэрні. — *А.С.*
[6] Не называючы крыніцы, аўтар спасылаецца на артыкул А. Луцкевіча “Белорусы”, але пазьней Луцкевіч удакладніў, што Беларускі настаўніцкі саюз быў створаны ў 1906 г. Гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 39, 127, 176—177. — *А.С.*

Скасаваньне забаронаў на друк і грамадзкая цікавасьць да беларускай кніжкі стварылі магчымасьць для таго, каб распачаць выдавецкую дзейнасьць. В. Іваноўскі адразу ж ацаніў гэтыя магчымасьці, але, нягледзячы на пэўны досьвед, іх выкарыстаньне выклікала вялікія цяжкасьці. Бо для таго, каб распачаць сталую і шырокамаштабную выдавецкую дзейнасьць, патрэбныя былі адносна значныя сродкі ды кваліфікаваныя супрацоўнікі, якіх пакуль што не было. У гэтым сэнсе беларускія выдаўцы былі ў найцяжэйшай сытуацыі. Пра гэта сьведчаць факты: калі ў 1905 г., г.зн. неўзабаве пасьля абвяшчэньня царскага ўказу, у Вільні пачалі выходзіць у сьвет польскія і літоўскія кніжкі і часопісы, дык беларускай кнігі ня выйшла аніводнай[7].

У пошуках энтузіястаў беларускай выдавецкай справы, якія мелі б адпаведныя творчыя зацікаўленьні і фінансавыя магчымасьці, Іваноўскі асабліва спадзяваўся на падтрымку з боку Ельскага. 24 лютага 1905 г. ён даслаў яму свой першы ліст, прычым напісаны па–беларуску:

> Пане Шанаваны,
> Чуў я ня раз ад усялякіх людзей і ад панаваго братанца, што вельмі Вы любіце нашу мову і пішэце самы іншы раз у нашай мове. То я хацеў пазнаёміцца з Вамі хаця праз пісулькі, бо што ж, Вы жывецё ў Міншчыні, а я ў Пецербурху.
> А такіх людцоў, што нашу мову дый нашага мужыка любяць, мала на сьвеце, то трэба каб хаця кампаніі пілнавалі. А Вы, Пане, самы шмат рабілі, мо і цяпер тае працы не кінулі. Здаецца, мелі Вы выдаць “Марыю” Мальчэўскага, праўда?
> Тутака таксама ёсьць людцоў колькі, то пералажылі ксёнжачак крыху, толькі з грашмі кепска... (далей нечытальны выраз. — *Ю.Т.*).
> Але таксама, ушоў не апушчаючы, прыгатавалі “Сыгнал” Гаршына, “Міхалка” Пруса, “Крыста” Канапніцкае, “Гутаркі аб небе і зямлі”. Лемантарчык (павэдлуг Промыка) будзе гатоў да друку за месяц.
> І так мне здаецца, што Вы ня менш маеце чаго, от каб усё зараз і выдрукаваць — от былобы дабро.
> Адпішыце, Паночку, калі часу знойдзеце крыху.

Асаблівай увагі заслугоўвае другі абзац ліста, дзе В. Іваноўскі паведамляе пра падрыхтаваныя “некалькімі людцамі” пераклады. Вядома, што брашура Гаршына ў беларускім перакладзе выйшла ў Маскве ў 1891 г., а другое нязьмененае выданьне зьявілася ў Вільні толькі ў 1914 г., таму інфармацыя аб яе перакладзе ў Пецярбургу не адпавядае сапраўднасьці. Ніколі не выдаў Іваноўскі згаданых апавяданьняў Пруса і Канапніцкай, і гэта можна расцаніць як фікцыйную інфармацыю альбо як згадку адно пра намер такога перакладу. Відаць, гэтая містыфікацыя была разьлічаная на тое, каб выклікаць у Ельскага ўражаньне, быццам у Пецярбургу пачынае разьвівацца выдавецкая дзейнасьць, што ў ёй ужо ўдзельнічае “людцоў колькі”, і ў выніку дабіцца ад яго дадатнага адказу.

На самай справе сытуацыя была горшая, чым апісаў Іваноўскі. Пераклад прыгаданай у лісьце “Гутаркі аб небе і зямлі”, як зазначана на тытульным аркушы гэтай кніжкі, выдадзенай у 1907 г., павінны былі зрабіць К. Кастравіцкі і С. Шаўлоўскі. Аднак у беларускай літаратуры асоба Шаўлоўскага засталася зусім невядомай, і праз гэта можна сьмела дапускаць, што тое быў псэўданім Іваноўскага, які альбо пераклаў “Гутаркі...” разам з Кастравіцкім, альбо — што яшчэ больш імаверна — грунтоўна выправіў пераклад Кастравіцкага. Кніга налічвала 68 старонак, таму можна меркаваць, што пераклад быў падрыхтаваны не пасьля абвяшчэньня царскага ўказу, але крыху раней. Тое самае датычыць лемантара, апрацаванага Іваноўскім. Нарэшце, Кастравіцкі ня жыў у Пецярбургу, гэтак жа, як і Алёйзія Пашкевічанка, якая ў сярэдзіне 1904 г. вярнулася ў Беларусь і рыхтавала першую беларускую чытанку. Такім чынам, у гэтай галіне дзейнічаў пакуль

[7] Александровіч С. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971. С. 163.

толькі сам Іваноўскі, так што яго інфармацыя пра некалькіх супольнікаў болей адпавядала намерам, чым сапраўднасьці.

З далейшага ліставаньня вынікае, што Ельскі даў альбо адмоўны, альбо невыразны адказ. Сапраўднай прычынай тут быў удзел Іваноўскага ў БСГ: у Ельскага, прыхільніка сацыяльнага кансэрватызму, гэта магло абудзіць асьцярогі, што выдавецкая дзейнасьць у Пецярбургу стане адлюстроўваць радыкальныя праграмныя пастуляты гэтай партыі. Нельга выключыць і таго, што Ельскі прытрымліваўся пазыцыі “gente Rutheni, natione Poloni” і не салідарызаваўся з мэтамі маладога беларускага руху. Пра гэта, магчыма, сьведчыць шматзначная зацемка Ельскага на капэрце атрыманага ліста: “Białorusin Iwanowski”.

Аднак у тагачасных варунках практычна толькі панскае асяродзьдзе было ў стане забясьпечыць выдавецкую дзейнасьць значнымі фінансавымі сродкамі. Духавенства ж, якое было важным натхняльнікам нацыянальнага руху ў Літве, у тагачасных беларускіх варунках яшчэ не ўваходзіла ў разьлік. У такой сытуацыі Іваноўскі, нягледзячы на першую няўдачу, 31.04.1905 г. зьвярнуўся да Ельскага яшчэ раз:

> Ці не маеце знаёмых якіх, што захацелібы ксёнжак выдаць па нашаму. Тож ёсьць напісаные. Кажуць, што Войніловіч — той мог бы выдаць, мо знаеце яго?[8]

Дабіцца сымпатыі Вайніловіча — гэта была сьмелая і далёкасяжная ідэя. У Беларусі ён ня толькі валодаў маёнткамі, але і ўзначальваў Сельскагаспадарчае таварыства ў Менску, таму яго прыхільнасьць магла б істотна паўплываць на пазыцыю і падтрымку з боку беларускага панства. Гэтая задума, па сутнасьці, была не такая ўжо і беспадстаўная, пра што Іваноўскі, напэўна, ведаў. Аднак Вайніловіч таксама ня выказаў сваёй падтрымкі — прычынай былі рэвалюцыйныя падзеі 1905 г. Пра тое, што гэта было зроблена з клясавых пазыцыяў, ён напісаў у сваіх “Успамінах” цалкам недвузначна:

> Ад беларускіх суполак, заўсёды беручы ў іх сякі–такі матэрыяльны ўдзел, я ўрэшце адыйшоў, бо праца, пачатая ў іх у кірунку самапазнаньня і нацыянальнага адраджэньня (“Лучынка”, “Саха”, “Загляне сонца і ў наша аконца” і г.д.), у канцы набыла сацыялістычныя лёзунгі і кірунак, якому я ня мог пакланяцца насуперак маім перакананьням[9].

Увесну 1905 г. Іваноўскі абдумваў таксама іншую канцэпцыю, што прадугледжвала стварэньне выдавецкага таварыства, якое б дзеяла паводле прынцыпу каапэратыву ці акцыйнай суполкі. Ён выклаў гэтую задуму ў лісьце да Ельскага ад 15 траўня 1905 г. гэтак:

> Пане Сваячэ, а каб зрабіць таварыства для друкаваньня беларускіх ксёнжак, так, як украінцы маюць, то добра былоб. Здаецца мне, што можна былоб найсьці людзёў, што плацілі бы ў год — ну рублёў дзесяць — тож знайсьці можна людзёў з 20 на пачатак — от і дзьве ксёнжкі што году аддрукавалібы[10].

Цяжка сьцьвярджаць, ці задума аб стварэньні суполкі паўстала з адной толькі немагчымасьці знайсьці багатага мэцэната. Дата працытаванага ліста (15.05.1905) сьведчыць аб тым, што напісаны ён быў даволі рана, значыць, Іваноўскі ўлічваў разнастайныя варыянты. Аднак ужо найбліжэйшая будучыня паказала, што толькі шляхам калектыўных высілкаў можна было стварыць неабходныя падставы для дзейнасьці, хаця з прычыны малалікасьці, незаможнасьці і ў вялікай ступені абыякавасьці беларускай інтэлі-

[8] AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_2$.
[9] Wojniłowicz E. Wspomnienia 1847—1928. Cz. I. Wilno, 1931. S. 210—211.
[10] AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_2$.

генцыі і такі шлях з пачатку не даваў надзеі сабраць сур'ёзныя фінансавыя сродкі. Пра гэта вымоўна сьведчыў разьлік выдаваць толькі дзьве кніжкі ў год.

Аднак вынік арганізацыйных стараньняў Іваноўскага канца 1905 — пачатку 1906 г. аказаўся больш аптымістычным. У гэтую пару завяршылася падрыхтоўка колькіх заплянаваных выданьняў, было ўкладзенае пагадненьне зь пецярбурскай друкарняй К. Пянткоўскага і сабраны часовы капітал суполкі, які на пачатку траўня 1905 г. складаў 220 рублёў. Адначасна была сфармаваная і ўправа суполкі, якая складася зь сямёх яе сяброў–заснавальнікаў. Яе старшынём стаў Вацлаў Іваноўскі, а сакратаром — пецярбурскі чыноўнік Уладзіслаў Сталыгва. Сябрамі праўленьня былі: Браніслаў Эпімах–Шыпіла, пэдагог і супрацоўнік бібліятэкі Пецярбурскага ўнівэрсытэту, інжынэр–тэхноляг Юры Іваноўскі, Вінцэнт Валейка, студэнт Горнага інстытуту, і Уладзіслаў Калашэўскі, настаўнік школы пры лютэранскай царкве сьв. Пятра ў Пецярбургу[11].

5 траўня 1906 г. памянёныя сябры–заснавальнікі ўклалі дзейную да канца 1908 г.натарыяльную дамову, паводле якой несьлі калектыўную адказнасьць за дзейнасьць і абавязаньні суполкі. Але ў беспасярэднай дзейнасьці выдавецтва яны выконвалі розную ролю. На першым яе этапе (да канца 1908 г.) практычна ўсю рэдакцыйную працу рабілі два чалавекі — Вацлаў Іваноўскі і Браніслаў Эпімах–Шыпіла. Яны абодва адзначаліся вялікай працавітасьцю, прычым энэргія і прадпрымальнасьць першага ўдала спалучалася з эрудыцыяй і скрупулёзнасьцю другога. Яны былі знаёмыя колькі гадоў, але Шыпіла, нягледзячы на зацікаўленьне беларускаю літаратурай, у 1902—1904 г. ня браў удзелу ў выдавецкай дзейнасьці нелегальных беларускіх арганізацыяў у Пецярбургу[12]. Ён далучыўся да гэтай дзейнасьці толькі ў 1905 г., ужо ў легальных умовах, перадаўшы ў распараджэньне суполкі частку свае кватэры на Васільеўскім востраве (4 лінія, кв. 45). Астатнія сябры ўправы выконвалі адміністрацыйныя абавязкі (Сталыгва) альбо абмяжоўваліся фінансавым удзелам[13].

Спрэчным застаецца пытаньне, калі суполка "Загляне сонца..." пачала выдавецкую дзейнасьць. На думку Александровіча, гэта адбылося толькі пасьля яе фармальнага заснаваньня ў траўні 1906 г., і тады ж — пісаў ён — "досыць апэратыўна... пачынаецца праца над рукапісамі беларускіх падручнікаў, якія неўзабаве былі здадзеныя ў друк і выйшлі ў кастрычніку—лістападзе 1906 г."[14].

У сапраўднасьці, як я заўважыў вышэй, рукапісы гэтых падручнікаў, г.зн. лемантара, чытанкі Цёткі і "Гутарак аб небе і зямлі", былі падрыхтаваныя ўжо ў 1904—1905 г. Іваноўскі ў чарговым лісьце да Ельскага ад 17 красавіка 1906 г. паведаміў важныя зьвесткі наконт таго, калі быў распачаты іх друк:

> Некалькі людцоў "тутэйшых", што ў Пецярбурху жывуць, залажылі выдаўніцкую суполку. Цяпер адбіваецца ўжо элемэнтар, будзе дваякімі знакамі, гэта значыць, папросту кажучы, будуць

[11] ЦДА ЛіМ (Цяпер гэта Беларускі дзяржаўны архіў–музэй літаратуры і мастацтва — БДАМЛМ. — А.С.), Менск, ф. 3, спр. 37, арк. 3. Дамова чальцоў–заснавальнікаў.

[12] Паколькі ў літаратуры часам выказваюцца на гэты конт іншыя меркаваньні, варта адзначыць, што Цётка — актыўная ўдзельніца ўсіх гэтых арганізацыяў — падчас свайго жыцьця ў Пецярбургу (1902—1904) увогуле ня ведала Б. Шыпілы. Пра гэта, безумоўна, сьведчыць яе ліст да Б. Эпімах–Шыпілы ад 28.06.1906 г., які ў поўным выглядзе апублікавала Ю. Бібіла. Гл. яе: Матар'ялы да біографіі Цёткі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук ІБК, кн. 2. Праца клясы філёлёгіі. Т. I. Менск, 1928. С. 296. — *Ю.Т.*

Гл. таксама: Цётка. Выбраныя творы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. С. 215. — *А.С.*

[13] Такой, у прыватнасьці, была роля, якую адыгрываў Ю. Іваноўскі, які лічыў сябе палякам, што ніяк не перашкаджала яму падтрымліваць беларускія ініцыятывы Вацлава. Верагодна, Іваноўскія поўнасьцю альбо часткова прафінансавалі складку Валейкі — небагатага студэнта і суседа. Такім чынам, Вацлаў распараджаўся бальшынёй галасоў ува ўправе суполкі, якую часам называлі "фірмай Іваноўскіх" (Вацлаў+Сабіна+Юры+Валейка).

[14] Александровіч С. Гісторыя і сучаснасьць. Мінск, 1968. С. 170—172.

два элемэнтары. Ці не прыступілібы і Вы да тае суполкі? Удзялы, з правам карыстаньня з зыску, будуць па 10 рублёў кожны.
Не гуляючы будзе адбіты ўстаў суполкі, то Вам яго прышлю поштаю[15].

Зацытаваная інфармацыя Іваноўскага сьведчыць, што дату ўкладаньня натарыяльнай дамовы сяброў–заснавальнікаў суполкі (5 траўня 1906 г.) нельга атаясамліваць з датаю яе заснаваньня. Суполка ўзьнікла раней і сама позна ў пачатку красавіка 1906 г. здала ў друк першыя кнігі.

Ранейшае, чым меркавалася, узьнікненьне суполкі “Загляне сонца...”, а не яе асаблівая апэратыўнасьць (хаця і з гэтага гледзішча яна была бездакорная), тлумачыць хуткае ажыцьцяўленьне праграмы выданьня падручнікаў. Ужо ў ліпені быў надрукаваны “Biełaruski lementar, Abo pierszaja nawuka czytańnia” (лацінкай) і сэрыя паштовак, а на працягу бліжэйшых тыдняў яго варыянт кірыліцай і “Першае чытаньне для дзетак беларусаў” Цёткі (таксама ў абодвух графічных варыянтах). Трэці падручнік “Гутаркі аб небе і зямлі” выйшаў на пачатку 1907 г.[16].

Выхад першага лемантара сучаснай беларускай мовы ў зацікаўленых польскіх і расейскіх колах быў успрыняты як беспрэцэдэнтны заклік беларускага народу да адраджэньня сваёй культуры, як спроба павярнуць кола гісторыі. Таму першыя водгукі ў друку адлюстроўвалі як зьдзіўленьне, так і занепакаеньне гэтых колаў ад нечаканага зьяўленьня беларускага нацыянальнага фактару на арэне, дзе дагэтуль дамінавалі і сутыкаліся польскія і расейскія культурныя і палітычныя ўплывы.

Адразу ж па выхадзе лемантара віленскі “Kurjer Litewski” зьмясьціў на першай паласе абсяжны камэнтар, падпісаны крыптонімам “J”, пад якім выступіў, відаць, сам рэдактар гэтае газэты Чэслаў Янкоўскі. Зьяўленьне лемантара “Kurjer Litewski” ацаніў яўна дадатна:

Чаму ж беларусам нельга хаця б на пачатку XX стагодзьдзя засьпяваць сваю “Багародзіцу” або дачакацца сваіх Чалякоўскіх, Коларжаў і Шафарыкаў, сваіх Даўконтаў і Валанчэўскіх? Лепей позна, як ніколі. Уласны, родны, нацыянальны лемантар! Гэта, калі казаць коратка, праменьчык уласнае культуры. Дык, значыць, існуе і беларуская культура? Натуральна, і пагатоў, калі пад культурай мы будзем разумець непаўторнасьць нацыянальнай сутнасьці... Навучыцца чытаць і пісаць па–беларуску — гэта ж першы, найсьвяцейшы нацыянальны абавязак кожнага беларуса[17].

Тым ня менш, журналіста, які напісаў гэтыя словы, не пакідалі асьцярогі, што абуджаў малады беларускі рух сярод палякаў ад самага пачатку свайго існаваньня: куды будзе скіравана яго пазьнейшае разьвіцьцё? Далейшыя характэрныя разважаньні аўтара над гэтым пытаньнем заслугоўваюць увагі:

Ці адчуе сам беларускі народ, якое вялікае дабрадзейства аказала яму дабрачынная выдавецкая суполка, абдарыўшы яго беларускім лемантаром? <...> Бо не падлягае сумневу, што ўсьлед за дзейнасьцю выдавецкай суполкі разгорнецца палымяная дзейнасьць г.зв. “прышчапленьня нацыянальнай сьвядомасьці” <...> Суполка, пра якую шмат разоў ужо вялася гаворка, абрала сваім

---

[15] Ліст бяз даты. Штэмпэль пецярбурскай пошты на капэрце сьведчыць, што адпраўлены ён быў 17.04.1906. Гл. у AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_2$.
[16] Сярод гэтых падручнікаў толькі лемантар быў выдадзены ананімна, паколькі часткова быў перакладам польскага лемантара Промыка, а часткова — арыгінальнай распрацоўкай В. Іваноўскага. Другі яго варыянт (кірыліцай) падрыхтаваў К. Кастравіцкі, аднак безь яго згоды быў грунтоўна перапраўлены В. Іваноўскім. У такой сытуацыі выдавецтва не магло пазначыць імя Кастравіцкага, таму дзеля раўнавагі лацінічны варыянт застаўся таксама ананімны.
[17] Elementarz białoruski // Kurjer Litewski. 1906. 25 lipca.

дэвізам і зрабіла сваім назовам: "Загляне сонца і ў наша аконца". Як нам бачыцца, разам з гэтым сонейкам роднага пісьменства загляне ў вокны беларускіх хат тое, што так часта труціць нават найкаштоўнейшую культуру і зацьмявае часам найдабрачыньнейшае сьвятло ведаў, а менавіта — шавінізм.

Бяз гэтай прыгатовы не адбудзецца выхаду на арэну нацыянальнага самаадчуваньня беларусаў. Калі б пытаньне прыналежнасьці да той або іншай нацыі залежала толькі і выключна *ад добраахвотнага і сьвядомага выбару* (падкрэсьлена ў арыгінале — *Ю.Т.*), дык гэтае ўзыходзячае сонца не выклікала б ніякіх заўваг... Але мы ведаем, на жаль, якое насеньне засяваюць усе гэтыя прапаганды, заклікі, прысьпешваньні, буджэньні, распальваньні і ўздыманьні на барацьбу... Сардэчна зычым беларускаму лемантару, каб не прынёс разам з сабою карагоду ўсіх гэтых "радасьцяў"...[18]

Выданьне першых кніжак суполкай "Загляне сонца..." і выхад у верасьні 1906 г. у Вільні першай беларускай газэты "Наша Доля" (пазьней — "Наша Ніва") — усё гэта напаткала неадназначную рэакцыю ў расейскім друку. Орган чарнасоценцаў "Окраины России" пісаў, што яны служаць палітычнай агітацыі ў польскім духу, а лемантар — распаўсюджаньню польскага алфавіту, і тым самым бароняць польскія інтарэсы ды абуджаюць антыўрадавыя настроі[19]. Аб пагромным характары гэтай заявы сьведчыць ігнараваньне "Окраинами России" фактаў выданьня лемантара і чытанкі, а таксама віленскай газэты як лацінкай, так і кірыліцай, што паказвае, што ня справа алфавіту раздражняла рэдакцыю. Зусім іншую пазыцыю ў гэтай справе займала пецярбурская газэта "Русь", якая дала свае старонкі для прапаганды беларускай суполкі і заклікала аб падтрымцы чытачамі яе дзейнасьці[20].

Іваноўскі ня дужа пераймаўся гэтымі ацэнкамі і працягваў ажыцьцяўленьне сваёй выдавецкай праграмы. Да сакавіка 1908 г. суполка выдала наступныя чатыры кніжкі пісьменьнікаў XIX ст. — "Дудку беларускую" і "Смык беларускі" Францішка Багушэвіча, "Гапон" Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча і пераклад першых дзьвюх кніг "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча на беларускую мову. Апрача таго, у сакавіку 1908 г. быў выдадзены першы зборнік вершаў Янкі Купалы "Жалейка".

Акалічнасьцям, у якіх пабачыла сьвет першая кніга будучага вялікага паэта, гісторыкі беларускай літаратуры прысьвяцілі ўжо нямала ўвагі, галоўным чынам, у кантэксьце ацэнак крыніцаў натхненьня і разьвіцьця яго творчасьці. Вялікія заслугі ў гэтым А. Луцкевіч прыпісваў кіраўніцтву "Нашай Нівы", указваючы, што "моцным імпульсам для яго (Я. Купалы. — *Ю.Т.*) быў выхад у Вільні ў канцы 1906 г. першых легальных беларускіх газэт — "Нашай Долі" і "Нашай Нівы". "Рэдакцыя, — пісаў А. Луцкевіч, — адразу ж ацаніла здольнасьці паэта і пачала зьмяшчаць на пачэсным месцы яго творы"[21]. У сапраўднасьці на старонках "Нашай Долі" не было зьмешчана ніводнага верша Я. Купалы, а першы яго верш ("Касцу") у "Нашай Ніве" быў апублікаваны толькі 11.05.1907 г. Тым часам рукапіс "Жалейкі" ўжо ўвосень 1906 г. знаходзіўся ў выдавецтве "Загляне сонца...", куды яго пераслаў апякун маладога паэта, менскі публіцыст Уладзімер Самойла[22]. Пецярбурская суполка высока ацаніла творчасьць Купалы: найлепш пра гэта сьведчыць той факт, што ўжо ў лістападзе 1906 г. яна паведаміла пра хуткае выданьне "Жалейкі" і прасіла адначасова прысылаць грошы[23].

Робячы стаўку на Пецярбург, а не на Вільню, Купала, безумоўна, разьлічваў, што такім чынам ён барджджэй дачакае асобнага кніжнага выданьня сваіх вершаў, што, віда-

[18] Тамсама.

[19] Окраины России. 24—31.12.1906. С. 741.

[20] Русь. 1907. 5 ноября. Приложение.

[21] Навіна А. Адбітае жыцьцё. Вільня, 1929. С. 43.

[22] Пуцявінамі Янкі Купалы. Дакументы і матэрыялы. Мінск, 1981. С. 55.

[23] Наша Ніва. 1906. 24 лістапада.

вочна, цаніў вышэй, чым іх публікацыю ў расьцярушаным газэтным выглядзе. І сапраўды, выданьне “Жалейкі” доўжылася каля 16 месяцаў, лічачы ад згаданай абвесткі, што і на сёньняшнія меркі ня надта доўга. Пры гэтым выдавецтва выконвала сваю ўласную праграму — выпуск беларускай клясыкі, да якой Купала пакуль што не належаў. Відавочна, аднак, ён не адзначаўся асаблівай сьціпласьцю і цярплівасьцю, пра што сьведчыць наступная вершаваная эпіграма, напісаная ў чаканьні “Жалейкі”:

Горы абяцаці —
Ня споўніць крыхі —
Не сьвятыя лепяць
Гэтыя гаршкі.

Ёсьць у нас “суполка” —
Цешся, беларус,
Тваёй мовай кніжак
Надрукуе стус.

Ой, сьпяшыць суполка
Кніжкі выдаваць,
Хіба на тым сьвеце
Будзем іх чытаць[24].

Да вясны 1908 г. суполка “Загляне сонца...” выдала дзесяць кніг і паўтара дзясятка паштовак. Імкнучыся пашыраць сваю прапанову, суполка ўзяла на склад колькі ранейшых беларускіх пецярбурскіх выданьняў (“Вязанка” Я. Лучыны, “Казкі”, “Кароткі катэхізм” Філяхоўскага), а таксама пару пазыцыяў, выдадзеных “Нашай Нівай”, і розныя беларусазнаўчыя працы на расейскай і польскай мовах, у тым ліку “Словарь белорусского наречия” І. Насовіча, “Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny” Я. Чачота, працы М. Доўнар–Запольскага, Я. Карскага і іншыя. Адначасова суполка арганізавала дыстрыбуцыйную сетку, уклаўшы дамовы з кнігарнямі. Увесну 1908 г. беларуская кніга была даступная ня толькі ў Пецярбургу, але ў колькіх віленскіх кнігарнях, у Менску, Віцебску, Горадні, Магілёве, Гомелі, Слоніме, а таксама ў варшаўскай кнігарні Габрыэля Цэнтэршвэра на Маршалкоўскай, 143[25].

Першы этап дзейнасьці суполкі вызначыла дамова, укладзеная паміж яе заснавальнікамі, якая дзеяла да канца 1908 г. Аднак фактычна гэты этап закончыўся ўжо ўвесну, што вынікае з факту, што з таго часу аж да восені 1909 г. суполка ня выдала ніводнай кнігі. На гэта паўплывалі дзьве акалічнасьці. Адной зь іх быў выезд Іваноўскага ў Мюнхэн, дзе ў тамтэйшай палітэхніцы ён рыхтаваўся да абароны сваёй доктарскай працы. Безь яго, як высьветлілася, астатнія сябры ўправы няшмат маглі зрабіць. Другою ж прычынай была пастанова Пецярбурскай судовай палаты, прынятая ўвосень 1908 г. пасьля звароту Віленскага камітэту па справах друку (цэнзуры), аб затрыманьні пераважнай часткі непрададзенага накладу зборнікаў Багушэвіча “Дудка беларуская” і “Смык беларускі” і пачатку сьледзтва для высьвятленьня вінаватых у выданьні гэтых “нядобранадзейных” твораў. На кароткі час пагроза канфіскацыі навісла таксама над “Жалейкай” Купалы[26].

Гэтыя здарэньні гнятліва паўплывалі на Шыпілу, які, зважаючы на сваё службовае становішча, стараўся ўнікаць сутыкненьняў з уладай. Істотную ролю пры гэтым адыгрывала тая акалічнасьць, што сядзіба суполкі знаходзілася ў ягонай кватэры, і ён пачуваўся асабліва адказным за яе дзейнасьць, хоць і ня быў яе кіраўніком. Ня выключана, што

[24] Купала Я. Поўны збор твораў. Т. 1. С. 164.
[25] Наша Ніва. 1908. 11 сакавіка.
[26] Александровіч С. Тамсама, с. 177; Пуцявінамі Янкі Купалы… С. 59—69.

Шыпіла здагадваўся пра сувязі Іваноўскага зь нелегальным выдавецтвам “Грамада”, што павялічвала пачуцьцё небясьпекі. Таму пасьля сканчэньня 31 сьнежня 1908 г. дзеяньня дагэтулешняй дамовы заснавальнікаў, ён выйшаў з управы суполкі, параіўшы ёй пашукаць іншае памяшканьне. Падчас адсутнасьці Іваноўскага справамі суполкі займаўся яе бухгальтар Антон Грыневіч, які ў другой палове 1908 г. жыў у яе памяшканьні, г.зн. у Шыпілы[27]. Канец крызіснай сытуацыі паклала новая дамова сяброў–заснавальнікаў, укладзеная ў Пецярбургу 30 кастрычніка 1909 г., згодна зь якой аднаўлялася дзейнасьць выдавецкага таварыства “Загляне сонца...”. З ранейшага складу ўправы выбылі Шыпіла і Калашэўскі, засталіся Вацлаў і Юры Іваноўскія, Сталыгва і Валейка. Акрамя таго, далучыліся новыя сябры: Сабіна Іваноўская (жонка Вацлава), адзін з старэйшых беларускіх дзяячоў у Пецярбургу інжынэр–тэхноляг Антон Неканда–Трэпка разам з жонкай Юліяй, Антон Грыневіч і Генрык Ражноўскі. Паводле палажэньняў новай дамовы, кіраўніком выдавецтва надалей застаўся Вацлаў Іваноўскі, а ягоны брат Юры стаў адказным рэдактарам. Адначасна быў заяўлены новы адрас суполкі, якая цяпер разьмяшчалася ў зьнятай кватэры на Васільеўскім востраве, 6–я лінія, 1, кв. 20[28].

Шмат сьведчыць пра тое, што гэты другі склад сяброў суполкі быў падабраны з увагі на фінансавыя патрэбы. Новыя сябры зрабілі значна большыя ўнёскі. Мабыць, павялічылі свае ўнёскі і дагэтулешнія сябры. Сукупны аб’ём унёскаў сяброў–заснавальнікаў, які ў 1906—1908 г. павялічыўся толькі з 220 да 315 рублёў, 1 красавіка 1910 г. склаў 800 руб., доля акцыянэраў склала 750 руб., а ўсе актывы суполкі сягнулі 4070 руб.[29]. Паляпшэньне эканамічнай сытуацыі стварала магчымасьць пашырэньня выдавецкай дзейнасьці, аднак яе выкарыстаньне залежала ад вырашэньня кадравых цяжкасьцяў. Функцыя Юр’я Іваноўскага як адказнага рэдактара ад пачатку была фікцыйная, да таго ж, у 1910 г. ён зьехаў на некалькі гадоў з Пецярбургу ў Маскву і Кітай. Увосень таго ж году, скончыўшы Горны інстытут, зь Пецярбургу зьехаў Валейка, а ўсьлед за ім Сталыгва[30]. Аднак абнадзейваў Грыневіч, які праяўляў як творчыя зацікаўленьні, гэтак і выдавецкія амбіцыі[31]. Таму Іваноўскі ў 1909 г. пасяліў яго ў новым памяшканьні выдавецтва і даверыў яму на летні час выконваць абавязкі яго кіраўніка[32]. У канцы 1909 г. В. Іваноўскі запрасіў у Пецярбург Купалу, які з восені 1908 г. жыў у Вільні і супрацоўнічаў з рэдакцыяй “Нашай Нівы”. Запрашэньне гэтае было як у інтарэсах выдавецтва “Загляне сонца...”, так і ў інтарэсах паэта, які атрымліваў магчымасьць для паглыбленьня сваёй адукацыі, творчага разьвіцьця і — самае галоўнае — беспасярэдняга ўдзелу ў выданьні сваіх чарговых твораў. 4 сьнежня 1909 г. Купала ўжо быў прапісаны ў памяшканьні суполкі на 6–й лініі, дом 1, дзе на працягу некалькіх месяцаў жыў разам з Грыневічам і толькі ў чэрвені 1910 г. стаў кутнікам Шыпілы[33]. У асобе Купалы суполка здабыла каштоўнага супрацоў-

[27] Весь Петербург на 1909 г.

[28] Наша Ніва. 1909. 22 кастрычніка.

[29] Маладая Беларусь. 1912. Сш. 1. С. 153; Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. С. 178.

[30] Як сьведчаць асабістыя дакумэнты В. Валейкі, якія знаходзяцца ў распараджэньні сям’і ў Варшаве, 15.11.1910 г. ён распачаў працу ў Шчарбінаўскай шахце ў Данбасе як горны інжынэр. Паводле інфармацыі Людвікі Войцік (Зоські Верас) зь Вільні, Сталыгва ўжо ў 1912 г. жыў у Варшаве і ўваходзіў у мясцовы Беларускі гурток.

[31] Гэта былі досыць незвычайныя амбіцыі. Пра тое сьведчыць выдадзеная ў 1909 г. у Вільні кніжка А. Грыневіча “Як бараніцца ад халеры”, якая налічвала ўсяго… 2 старонкі.

[32] Александровіч С. Тамсама, с. 179; Весь Петербург на 1910 г.

[33] Пра тое, што пасьля прыезду ў Пецярбург Я. Купала пасяліўся ў памяшканьні суполкі, сьведчаць даты рэгістрацыі ў яго пашпарце, апублікаваныя ў кн. “Пуцявінамі Янкі Купалы…” (Мінск, 1981. С. 48—49). Аднак гэты факт ігнаруюць многія беларускія аўтары. Пра запрашэньне Купалы В. Іваноўскім гл.: ліст У. Самойлы да Б. Шыпілы ад 02.12.1909 г. Тамсама, с. 53; а таксама паведамленьне Ф. Умястоўскага // Беларускі Дзень. 1928. № 6 (46). С. 7.

ніка, прычым карысьць ад гэтага супрацоўніцтва была абапольная — тут, у Пецярбургу, выйшлі шэсьць першых кніг Купалы: "Жалейка", "Адвечная песьня", "Гусьляр", "Сон на кургане", "Паўлінка" і "Шляхам жыцьця". Гэтае дасягненьне далёка выходзіла за асабістыя матывацыі, бо мела неперахаджалае значэньне для беларускай літаратуры.

Значэньне Купалы як рэдакцыйнага супрацоўніка зьвязана і зь нечаканаю адмоваю Грыневіча ўдзельнічаць у суполцы і пачаткам ягонай самастойнай выдавецкай дзейнасьці ў Пецярбургу. С. Александровіч сьцьвярджаў, што "разрыў" адбыўся ўвесну 1910 г., але не правёў аналізу яго прычынаў. Між тым гэтая падзея выглядае ня толькі нелягічнай, але і інтрыгоўнай — з аднаго боку, удзел у "Загляне сонца..." ня толькі не перашкаджаў Грыневічу рэалізаваць свае выдавецкія задумы, але значна іх палягчаў, а з другога — цяжка дапусьціць, каб адасабленьне Грыневіча было наступствам асабістых канфліктаў з Іваноўскім.

Думаецца, прычына гэтага дзіўнага адыходу Грыневіча вынікала з тагачаснай пазыцыі суполкі. Нягледзячы на спазьненьні ў ажыцьцяўленьні выдавецкай праграмы, ужо ў 1909—1910 г. суполка набыла вялікую папулярнасьць і ўзбуджала спадзяваньні аўтараў на выданьне сваіх твораў. Праўда, былі спробы заснаваць іншыя выдавецкія таварыствы, аднак яны былі або безвыніковыя (таварыствы "Мінчук" у Менску і "Палачанін" у Вільні), або апыналіся ў цяжкіх матэрыяльных умовах і дзеля гэтага мелі невялікія магчымасьці ("Наша Ніва" ці віленская суполка "Наша Хата"). На гэтым фоне пецярбурская суполка выглядала салідна і спадзеўна, у сувязі з чым да яе сьцякаліся адносна шматлікія выдавецкія прапановы. На яе разьлічвалі ня толькі Купала і Грыневіч, але таксама Якуб Колас, Напалеон Чарноцкі, Вацлаў Ластоўскі ды іншыя. Рамуальду Зямкевічу паабяцалі выдаць ягоныя гісторыю беларускай літаратуры і слоўнік[34], а іншаму (невядомаму) аўтару — працы пра лубін і сэрадэлю[35]. У такой сытуацыі выданьне за кароткі час шасьці Купалавых кніг аўтары, што стаялі ў чарзе, маглі расцэньваць як выкарыстаньне магчымасьцяў суполкі дзеля асабістых мэтаў ейных супрацоўнікаў. Такіх абмоў Іваноўскі спрабаваў унікаць, у сувязі з чым нават уласныя творы імкнуўся выдаваць не ў Пецярбургу, а ў Вільні і пад рознымі псэўданімамі[36].

Таму асобнае выдавецтва Грыневіча не было канкурэнтным прадпрыемствам, але асабліваю формай супрацоўніцтва, разьлічанай на павелічэньне публікацыяў, каб пры гэтым ня мець непажаданых закідаў. Пра гэта, у прыватнасьці, сьведчыць гісторыя выданьня зборніка вершаў Купалы "Гусьляр". Выдаць яго спачатку плянавала суполка "Загляне сонца...", на што паказвае інфармацыя, зьмешчаная на вокладцы выдадзенай ёй у 1910 г. кніжкі Дуніна–Марцінкевіча "Шчароўскія дажынкі", якая абвяшчала, што "Гусьляр" выйдзе неўзабаве. Аднак, абдумаўшы справу, заканчэньне рэалізацыі гэтага праекту перадалі Грыневічу, у выдавецтве якога ў канцы 1910 г. урэшце і выйшла кніга. Раней ён выдаў "Адвечную песьню" Купалы і "Беларускія песьні з нотамі", т. 1, ува ўласнай апрацоўцы. Пра добрыя дачыненьні і супрацоўніцтва паміж абодвума выдавецтвамі сьведчыць таксама факт, што выдадзеныя Грыневічам кнігі суполка "Загляне сонца..." прымала на свой склад і прапаноўвала разам з уласнымі выданьнямі. Ня выключана, што яна "паціху" пакрывала частку выдаткаў на іх.

Другі этап дзейнасьці суполкі "Загляне сонца..." пачаўся з выданьня ў жніўні ці верасьні 1909 г. чарговай кнігі Дуніна–Марцінкевіча "Вечарніцы". Амаль адначасова ў Вільні пад маркаю "Загляне сонца..." выйшла кніга Дулебы "Як ратаваць уздутую жы-

---

[34] Ліст Р. Зямкевіча да А. Ельскага ад 21.03.1909. AGAD, zesp. Prozorów i Jelskich, $140_2$.

[35] Ажэшка Э. Хам (Мужык). Пецярбург, 1912. Інфармацыя суполкі на вокладцы.

[36] Гэта былі: арыгінальная кніжка В. Іваноўскага, выдадзеная пад яго псэўданімам Вацюк Тройца, "Цукер. З гутарак зь дзядзькам Сымонам". Wilnia, 1908; а таксама яго пераклады папулярных брашур А. Семпалоўскага "Гутаркі аб гападарцы" і К. Дулебы "Як ратаваць уздутую жывёлу", абедзьве выйшлі ў Вільні ў 1909 г. пад псэўданімамі Антось Асіна і Антось Хатні. Усе тры працы раней друкаваліся ў "Нашай Ніве".

вёлу” (кірыліцай і лацінкай) у перакладзе Іваноўскага, а ў студзені 1910 г. — падручнік Якуба Коласа “Другое чытаньне для дзяцей беларусаў”, выдадзены разам зь віленскім таварыствам “Наша Хата”. У сярэдзіне гэтага году выйшлі з друку адным томам два наступныя творы Дуніна–Марцінкевіча “Шчароўскія дажынкі” і “Купала” з прадмоваю — вялікім артыкулам Іваноўскага “Вінцук Дунін–Марцінкевіч і яго жыцьцё”. Гэта была адна зь першых спробаў паказу складанай фігуры гэтага пісьменьніка XIX ст. і ацэнкі ягонага значэньня для беларускай літаратуры. Урэшце, у лістападзе 1910 г. пасьля працяглых захадаў суполкі, якія пацягнулі значныя выдаткі, пецярбурская Судовая палата скасавала рашэньне пра канфіскацыю кніг Багушэвіча.

У 1910—1912 г. пецярбурская суполка літаграфічным спосабам і накладам 200 або 400 асобнікаў выдала рэпэртуарную сэрыю з сцэнічных твораў. Гэта было як крокам насустрач патрэбам узьнікаючых беларускіх аматарскіх тэатральных трупаў, так і інсьпірацыяй і дапамогай для гэтага руху. У сэрыі выйшлі наступныя камэдыі: “Модны шляхцюк” Каруся Каганца (1910), “Сватаньне” Антона Чэхава ў перакладзе Напалеона Чарноцкага (1910), “Пашыліся ў дурні” (1910) і “Па рэвізіі” (1911) Марка Крапіўніцкага, абедзьве ў апрацоўцы Чарноцкага, і “Міхалка”, нібыта перапрацоўка польскай камэдыі, выкананая, як пададзена на тытульнай старонцы, Далецкімі (1911)[37]. Акрамя таго, суполка выдала два драматычныя творы Элізы Ажэшкі — “У зімовы вечар” (1910, пераклад Вацлава Ластоўскага) і “Хам” (1912), а таксама камэдыю Купалы “Паўлінка”.

У 1911 г. выйшлі ў сьвет яшчэ два выданьні: невялічкае апавяданьне Новіча “Ў дому лепей” і даволі ёмісты дапаможнік для пчаляроў Генрыка Бярозкі “Пчаліна — жывёлка малая, а карысьці дае многа”. Пад псэўданімам “Бярозка” выступаў ксёндз Бэта — прафэсар духоўнай сэмінарыі ў Сейнах[38].

Такім чынам, пасьля шматмесячнага застою зь вясны 1909 г. дзейнасьць суполкі разьвівалася вельмі пасьпяхова. Разам з узрастаючай колькасьцю выдаваных кніжак павялічыўся іх продаж, які нарэшце пачаў прыносіць прыбытак. Гэта ўмагчыміла рост актываў суполкі. Калі 1 красавіка 1910 г. яны складалі 4070 рублёў, то на працягу наступных 15 з паловай месяцаў яны ўзрасьлі на 50% і 15 верасьня 1911 г. дасягнулі 6000 руб. Асабліва моцна ўзрос у той час аб’ём унёскаў сяброў–заснавальнікаў, якія дасягнуў 1500 руб.[39]. Здаровае фінансавае становішча дазволіла суполцы ня толькі пакрываць уласныя выдаткі (на друк, памяшканьне, склад, рэкляму і інш.), але і дафінансаваць выданьне календара “Нашае Нівы” на 1911 г.[40]. З гэтага гледзішча суполка “Загляне сонца...” ня мела аналяга сярод іншых тагачасных беларускіх выдавецтваў. Дзеля гэтага цяжка пагадзіцца з ацэнкай Рыгора Семашкевіча, што яна была вельмі беднай арганізацыяй[41].

Рацыянальная і пасьлядоўная дзейнасьць суполкі давала таксама менш адчувальную, але надзвычай важную для беларускай літаратуры карысьць — уплывала на яе папулярызацыю, пабуджала да творчай актыўнасьці маладых празаікаў і паэтаў. У 1911 г. у выдавецкім партфэлі чакалі свайго часу ня толькі чарговыя творы Цёткі, Купалы і Коласа, але і новых аўтараў — Зьмітрака Бядулі, Канстанцыі Буйло, Тодара Чарнышэвіча, Цішкі Гартнага, Алеся Гурла, Янкі Журбы ды іншых. Усё гэта паўплывала на пазыцыю Шыпілы, які аднавіў супрацоўніцтва з суполкаю, хаця гэтым разам у неафіцыйнай форме. Загэтым не бяз гонару за ўласныя дасягненьні суполка скончыла фінансавую справаздачу на 15 лістапада 1911 г. словамі:

---

[37] Далецкія — гэта быў псэўданім В. Іваноўскага. Гл.: Seduro V. The Byelorussian Theater and Drama. New York, 1955. P. 153.

[38] Станкевіч Я. З гісторыі Беларусі. Мюнхэн, 1958. С. 71.

[39] Маладая Беларусь. 1912. Сш. 1. С. 153.

[40] Тамсама, с. 155.

[41] Семашкевіч Р. Беларускі літаратурна–грамадскі рух у Пецярбурзе. Мінск, 1971. С. 118.

> Пасылаючы гэты наш атчот вельміпаважаным нашым Сябруком, Супольнікам і Дабрадзеём — урад Суполкі ад усяго сэрца дзякуе за прыхільные рады, працу і помач Суполцэ і з ясным вокам паглядае на прышласьць, веруючы, што і далей не будзець недастатку ў чыстых, шчырых і прыязных беларускіх сэрцах[42].

Гэтую сьвятлейшую прышласьць кіраўніцтва суполкі бачыла ня толькі ў пашырэньні кнігавыданьня, але і ў стварэньні першага беларускага часопіса. Сапраўды, да вясны 1912 г., калі ў Вільні пачаў выходзіць сельскагаспадарчы месячнік “Саха”, адзіным беларускім пэрыядычным выданьнем была “Наша Ніва”, якая з гэтай прычыны займалася ўсімі галінамі жыцьця — ад вялікай палітыкі да гаспадарчых парадаў, бо мусіла ўлічваць інтарэсы разнародных катэгорыяў чытачоў. Пецярбурская суполка сапраўды ўважала мэтазгодным выдаваць спэцыяльны месячнік для інтэлігенцыі, аднак рэальна ацэньвала ўсё яшчэ недастатковыя магчымасьці публіцыстаў і таму не наважвалася на выдаваньне месячніка. Замест яго ў канцы 1911 г. распачалася падрыхтоўка да выданьня сталага альманаха пад назвай “Маладая Беларусь”. Ён ня меў пэўнай пэрыядычнасьці, аднак выходзіў прыблізна штопаўгоду. Нягледзячы на гэта, “Маладая Беларусь” мела рысы часопіса, на што паказвае нумарацыя, разьмяшчэньне матэрыялаў, рэцэнзіі, абвесткі, бягучая інфармацыя. Усяго выйшлі тры сшыткі: першы — у траўні 1912 г., наступныя — у канцы 1912 г. і ў сярэдзіне 1913 г. Кожны налічваў каля 160 старонак вялікага фармату.

Тэматычны профіль альманаха меўся ахопліваць тры наступныя аддзелы: актуальныя пытаньні грамадзкага жыцьця на Беларусі, навуковыя працы, прысьвечаныя Беларусі, а таксама аддзел літаратуры і мастацтва. На практыцы, аднак, пераважалі літаратурныя творы Купалы, Коласа, Цёткі, Бядулі, Гартнага, Гурла, Чарнышэвіча, Буйлы, Новіча, Журбы і Петрашкевіча. Навукова–папулярную тэматыку прадстаўлялі пераважна артыкулы А. Навіны (Антона Луцкевіча), адзін зь якіх — “На дарозе да новага жыцьця” — суполка выдала асобнаю брашурай. На старонках “Маладой Беларусі” выступіў таксама прафэсар А. Пагодзін з артыкулам, прысьвечаным беларускай моладзі, а А. Янулайціс апублікаваў матэрыял пра паэта Паўлюка Багрыма, які жыў у Крошыне ў XIX ст.

Апрача выдавецкай дзейнасьці, Іваноўскі надаваў вялікую ўвагу працы зь беларускай студэнцкай моладзьдзю, якая пасьля рэвалюцыі 1905 г. усё часьцей трапляла ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Пецярбургу. Спачатку маладыя беларусы гуртаваліся вакол суполкі “Загляне сонца...”, якая была для іх першай школай нацыянальнай грамадзкай і культурнай працы. На частых сустрэчах–“суботніках” у кватэрах Іваноўскага і Шыпілы моладзь заахвочвалася да вывучэньня айчыннай гісторыі, мовазнаўства, літаратуры ды іншых галінаў беларусазнаўства. На гэтых суботніках нараджаліся праекты культурна–асьветніцкіх імпрэзаў і сяброўскай грашовай самапомачы, якія ажыцьцяўляліся пад беспасярэднім кіраўніцтвам вядомага моладзевага дзяяча, студэнта ўнівэрсытэту Яўгена Хлябцэвіча[43]. Гэтак пад апекай Іваноўскага і Шыпілы ў Пецярбургу вырастала першае пакаленьне народнай інтэлігенцыі — Маладая Беларусь, якая дала сваё імя ўжо згаданаму альманаху.

Кульмінацыяй гэтай выхаваўчай працы стаў Беларускі навукова–літаратурны гурток, створаны ў студзені 1912 г. пры Пецярбурскім унівэрсытэце. Ён прынцыпова адрозьніваўся ад папярэдніх арганізацыяў, якія паўставалі на працягу ранейшага дзесяцігодзьдзя, бо ўпершыню атрымаў легальны статус, а сябрамі яго была пераважна моладзь ся-

[42] Маладая Беларусь… С. 155.

[43] Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С 139; яго ж. Адбітае жыцьцё. Вільня, 1929. С. 44. Пра суботнікі ў В. Іваноўскага і Б. Шыпілы пісаў таксама Б. Тарашкевіч у сваёй аўтабіяграфіі ў 1933 г., якая знаходзіцца ў Архіве гісторыі партыі пры ЦК КПСС у Маскве. Дзякую сп–ні Аляксандры Бэргман за магчымасьць азнаёміцца з адпаведным фрагмэнтам аўтабіяграфіі.

лянскага паходжаньня. І хаця гэта быў унівэрсытэцкі гурток, удзельнічалі ў ім студэнты зь іншых ВНУ Пецярбургу. На ўрачыстым інаўгурацыйным сходзе Іваноўскі ў сваёй прамове вітаў стварэньне гуртка як нараджэньне Маладой Беларусі, указваючы адначасна на яго важныя задачы, якія стаялі перад ім у галіне навуковага дасьледаваньня духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народу[44]. І хаця галоўнай мэтай гуртка была найперш падрыхтоўка моладзі да вялікіх задачаў у справе беларускага нацыянальнага адраджэньня, унівэрсытэцкія ўлады з гэтым мірыліся. Вось што пісаў пра гэта прафэсар А. Пагодзін у лісьце да гурткоўцаў:

> Вашыя стараньні па ўзьняцьці нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў абуджаюць самую гарачую маю сымпатыю... Над гэтым трэба працаваць, бо разьвіцьцё культуры народу немагчыма без усьведамленьня сваёй нацыянальнай тоеснасьці... Вітаю працу беларускай моладзі, скіраваную да нацыянальнай прасьветы беларускага народу... Дзеля гэтае ідэі варта жыць![45]

У афіцыйнай справаздачы пра дзейнасьць гуртка значылася, што яго ініцыятарам быў студэнт Хлябцэвіч. Да беларускага руху ён далучыўся ўжо даўно, каля 1905 г., калі вучыўся ў Віленскай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі, прычым прыцягнуў за сабой яшчэ некалькі калегаў–сэмінарыстаў. Да такога рашэньня ён прыйшоў пад уплывам Іваноўскага, які разьлічваў на нацыянальную актывізацыю маладога праваслаўнага духавенства[46]. Аднак Хлябцэвіч адмовіўся ад духоўнай кар’еры і на пачатку 1907 г. паступіў у Пецярбурскі ўнівэрсытэт, дзе на працягу шасьці гадоў быў блізкім супрацоўнікам Іваноўскага. Таму ён дакладна ведаў пра вызначальную ролю Іваноўскага ў стварэньні Беларускага Навукова–Літаратурнага Гуртка і яго сталы клопат пра матэрыяльныя патрэбы студэнтаў, для якіх ён арганізоўваў дабрачынныя акцыі ды іншыя мерапрыемствы, прыбытак зь якіх ішоў на іх карысьць[47].

Такім чынам, за сваю больш як дзесяцігадовую грамадзкую дзейнасьць у Пецярбургу Іваноўскі паклаў нямала сілаў на карысьць беларускага нацыянальнага адраджэньня. У прыватнасьці, ён узьняў на нечуваны ўзровень кнігавыданьне і, такім чынам, стымуляваў разьвіцьцё новай беларускай літаратуры, заўважыў і падтрымаў талент найвялікшага паэта Беларусі, прарока нацыянальнага адраджэньня, Янкі Купалы, нарэшце, паклаў пачатак гадаваньню нацыянальных кадраў — вучоных, палітычных і культурных дзеячоў, скіроўваў іх зацікаўленьні ў рэчышча інтарэсаў нацыянальнага адраджэньня. Таму не выпадкова Язэп Хлябцэвіч і Браніслаў Тарашкевіч вызначылі В. Іваноўскага як цэнтральную фігуру беларускага жыцьця ў Пецярбургу, а Максім Гарэцкі — як правадыра нацыянальнага адраджэнскага руху напярэдадні першай сусьветнай вайны[48]. Адзначым у гэтым месцы наступную падзею: увосені 1908 г. у Пецярбурскі ўнівэрсытэт паступіў выпускнік Слуцкай гімназіі Радаслаў Астроўскі. У будучыні ён адыграе адметную ролю на

---

[44] Отчет о состоянии и деятельности императорского С.–Петербургского университета за 1912 г. СПб., 1913. Приложение. С. 11.

[45] Наша Ніва. 1913. 2 жніўня.

[46] Луцкевіч А. За двадцаць пяць гадоў… С. 11. — *Ю.Т.*

У творах А. Луцкевіча нямала ёсьць згадак аб працы сярод сэмінарыстаў — як праваслаўных, так і каталіцкіх (гл.: Да гісторыі беларускага руху. С. 48, 52, 91, 92, 126, 18, 139, 145, 159—161). Карціна выглядае так: працу сярод сэмінарыстаў у Вільні распачала Цётка; І. Луцкевіч, калі пераехаў на пачатку 1906 г. у Вільню, карыстаўся напрацаванымі сувязямі і гэтую працу працягваў. Аб працы В. Іваноўскага сярод сэмінарыстаў А. Луцкевіч не пісаў. — *А.С.*

[47] Отчет о состоянии и деятельности императорского С.–Петербургского университета за 1913 г. СПб., 1914. С. 369.

[48] Тамсама; Тарашкевіч Б. Аўтабіяграфія (за 1933 г.); Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1921. С. 205.

беларускай палітычнай сцэне і стане галоўным прычынцам трагедыі Івaноўскага. Між тым, навучаючыся да лютага 1911 г. у Пецярбургу, трымаўся ўбаку ад беларускага руху і намагаўся крочыць сваёй уласнай дарогай, прымаючы ўдзел у зямляцтве слуцкіх студэнтаў[49].

Добрых вынікаў дасягнуў Івaноўскі і ў навуцы. Пасьля таго, як у 1909 г. ён атрымаў у Мюнхэнскім політэхнічным інстытуце ступень доктара тэхнічных навук, Івaноўскі стаў дацэнтам у Пецярбурскім тэхналягічным інстытуце, спэцыялізуючыся ў фэрмэнтацыі харчовых прадуктаў. Яго запрасілі выкладаць фэрмэнталёгію на Вышэйшых жаночых політэхнічных курсах (г.зв. жаночай палітэхніцы) у Пецярбургу; апрача таго, Івaноўскі працаваў яшчэ ў міністэрстве сельскай гаспадаркі старэйшым кансультантам па перапрацоўцы садавіны і гародніны. Вынікі сваіх досьледаў ён зьмяшчаў звычайна ў “Известиях Технологического института” (1908—1913) і “Известиях Российского общества винокуренных заводов” (1909). У 1914 г. выйшла яго першая кніжка “Испытание овощных и плодовых сушилок”, выдадзеная на сродкі міністэрства сельскай гаспадаркі.

У параўнаньні з посьпехамі ў арганізацыйнай і навуковай галіне, літаратурная і публіцыстычная дзейнасьць Івaноўскага выглядае досыць сьціпла, але варта і на ёй засяродзіць увагу. Ён быў сталым супрацоўнікам віленскіх беларускіх газэт “Наша Доля” і “Наша Ніва”, тут пад псэўданімамі Вацюк Тройца, Антось Асіна, Антось Хатні ды інш. публікаваліся яго разнастайныя допісы і агратэхнічныя парады. Супрацоўнічаў ён і з папулярным часопісам для земляробаў “Саха”, які выдаваў Аляксандар Уласаў. Івaноўскі намовіў да публікацыяў сваю сястру Галену, спэцыялістку ў конегадоўлі.

Толькі аднойчы В. Івaноўскі адважыўся выступіць на паэтычнай арэне — у “Нашай Ніве” быў зьмешчаны яго пераклад верша Казімера Тэтмаера “Вада” зь яскрава рэвалюцыйным гучаньнем[50]. Вялікім посьпехам карысталася яго камэдыя з шляхецкага жыцьця “Міхалка”, пасьля першай публікацыі 1911 г. у Пецярбургу яна вытрымала некалькі перавыданьняў, апошняе выйшла ў 1957 г. у Беластоку[51]. Івaноўскі ўвёў у яе матыў з асабістага жыцьця — старэйшай на 2—3 гады жонкі (у камэдыі — Адэля, дзеўка на выданьні). Камічныя эпізоды, падгледжаныя ўва ўласным асяродзьдзі, ён пераказаў іншым аўтарам. Адным з такіх стаў шляхціц Быкоўскі з Купалаўскай “Паўлінкі” — яго прататыпам быў продак Івaноўскага, валадар Лябёдкі Рыла–Быкоўскі. Меў літаратуразнаўчую вартасьць і апублікаваны ў 1910 г. артыкул пра жыцьцё і творчасьць Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча, яго дадатна ацэньваюць і сучасныя дасьледчыкі[52].

Дзякуючы волі і мэтанакіраванай дзейнасьці Івaноўскага пецярбурскі асяродак, бясспрэчна, утрымліваў пяршынства сярод усяго беларускага руху. Але гэта было непажаданае і ненармальнае становішча, таму што будучыня руху залежала ад яго актыўнасьці ў Беларусі, а не ў далёкай расейскай сталіцы. І хаця справы суполкі ішлі штораз лепей, выхаваўчая праца сярод моладзі падавалася спадзеўнай, а навуковая кар’ера складалася ўдала, Івaноўскі ў чэрвені 1913 г. разьвітаўся зь Пецярбургам і пераехаў у Вільню. Разам зь ім перабраўся і яго найбліжэйшы супрацоўнік Купала[53]. Такое рашэньне дыктавалі інтарэсы руху: неабходна было сканцэнтраваць творчыя сілы ў Вільні і разьвіваць дзейнасьць беспасярэдне ў краі. Але, перш чым адбыўся іх выезд, суполка выдала ў Пецярбургу найлепшы зборнік Купалы — “Шляхам жыцьця”[54].

---

[49] Kalush V. In the Service of the People for a Free Byelorussia. London, 1964. P. 15—17.

[50] Наша Ніва. 1907. 23 сакавіка.

[51] Зборнік сцэнічных твораў. Беласток, 1957. С. 34.

[52] Семашкевіч Р. Тамсама, с. 114.

[53] Купала выехаў зь Пецярбургу ў Акопы і жыў там да восені 1913 г. У Вільню ён пераехаў толькі на пачатку кастрычніка. — *А.С.*

[54] Пецярбурская суполка па–ранейшаму існавала, але была няздольная да эфэктыўнай працы і займалася завяршэньнем ранейшай выдавецкай праграмы. У 1913/1914 г. яна выдала колькі пазыцыяў, бальшыню зь якіх склалі выпушчаныя асобнымі кніжкамі творы, што раней публікаваліся ў альманаху “Маладая Беларусь”.

Іваноўскі плянаваў разьвязаць у Вільні дзьве асноўныя задачы: павялічыць кнігавыдавецкую дзейнасьць і распачаць асьвету беларускага земляроба. Дзьве гэтыя задачы былі ў вялікай ступені ўзаемадапаўняльныя: асьветніцкая дзейнасьць адкрыла б шырэйшы доступ вясковаму чытачу да беларускай кніжкі. Таму не выпадкова па прыезьдзе ў Вільню Іваноўскі ўладкаваўся ў Сельскагаспадарчым таварыстве на пасаду кіраўніка яго складу, што разьмяшчаўся па вуліцы Завальнай, 9[55]. Тут цяпер месьціўся цэнтар яго новай дзейнасьці.

Дагэтуль беларускім кнігавыданьнем у Вільні займалася перадусім рэдакцыя "Нашай Нівы". З 1907 па 1912 г. яна выдала 31 кніжку, прычым 12 зь іх у дубль–варыянце — кірыліцай і лацінкай. Калі не лічыць арыгінальных кніжных календароў, гэта былі пераважна збрашураваныя адбіткі твораў, уперад выдрукаваных у газэце. Для рэдакцыі гэта была пабочная справа, якая давала шмат клопату, таму зь яе ініцыятывы ў 1909 г. была заснаваная асобная выдавецкая суполка "Наша Хата". Аднак, выдаўшы некалькі кніжак, у 1911 г. яна спыніла сваю дзейнасьць. Няўдачай скончылася і спроба стварыць у 1910 г. суполку "Палачанін" — ужо ў наступным годзе яна была ліквідаваная. Таму патрэба стварэньня спэцыялізаванага выдавецтва адчувалася востра і пільна, і дзяячы "Нашай Нівы" ахвотна адгукнуліся на прапанову абазнанага ў гэтай справе Іваноўскага, каб засяродзіць выдавецкую дзейнасьць пад яго кіраўніцтвам.

Гэткім парадкам 01.07.1913 г. у Вільні было закладзенае Беларускае выдавецкае таварыства (БВТ). Старшынём яго стаў Іваноўскі, а сакратаром — Купала. У ліпені–жніўні яно разьмяшчалася пры Жандарскім завулку, 1 (пазьнейшая вуліца Ягелонская), дзе Вацлаў часова затрымаўся пасьля прыезду зь Пецярбургу[56]. У верасьні БВТ пераехала на новую кватэру Вацлава па вуліцы Каштанавай, 5, дзе некалькі месяцаў пражыў таксама і Янка Купала[57]. Апрача памяшканьня, Іваноўскі пераказаў у распараджэньне суполкі і значныя грашовыя сродкі, якія забраў зь пецярбурскай суполкі. Гэта дапамагло стварыць добры матэрыяльны грунт, — ужо празь месяц пасьля заснаваньня БВТ было ў стане выдаткаваць 3000 рублёў на куплю ўсіх выдадзеных "Нашай Нівай" кніжак і календароў, якія заставаліся на складзе, а таксама — і матэрыялы да календара на 1914 г.[58]. Істотнае значэньне мелі для выдавецтва і грашовыя субсыдыі ад княгіні Магдалены Радзівіліхі*.

Пры такім стане Беларускае выдавецкае таварыства магло дазволіць добра прадуманую дзейнасьць. Першым важным крокам было стварэньне спэцыяльнага цэнтру распаўсюджаньне кніжак, што дазваляла выдавецтву абмежавацца толькі ўласьцівымі яму функцыямі. Гэтым цэнтрам стала заснаваная ў жніўні 1913 г. пры ўдзеле БВТ беларуская кнігарня Вацлава Ластоўскага ў Вільні. Адзначым, што зьмяшчалася яна па вуліцы Завальнай, 7, г.зн. па суседзтву зь Сельскагаспадарчым таварыствам, дзе працаваў Вацлаў Іваноўскі і зь якім супрацоўнічаў Вацлаў Ластоўскі[59]. Гэта спрыяла прапагандзе беларускай кніжкі сярод кліентаў, што наведвалі склад Сельскагаспадарчага таварыства. Як паведамляў Ластоўскі, у кастрычніку і лістападзе 1913 г. продаж кніжак прынёс амаль 500 рублёў, прычым з 215 замоў на адсылку кніжак поштай 212 было зроблена сялянамі. "Нас гэта дужа цешыць, — адзначаў Ластоўскі, — бо гэта азначае, што рух пайшоў у патрэбным кірунку"[60].

Ужо ў сярэдзіне жніўня 1913 г. у "Нашай Ніве" зьявілася характэрная аб'ява БВТ, якая пасьля ня раз будзе сустракацца на вокладках выдадзеных ім кніжак, з заклікам пісаць кнігі ў такой пасьлядоўнасьці: пераклад усяго Сьвятога пісаньня, гісторыі Старо-

---

[55] Вся Вильна на 1915 год. Вильна, 1915. Гл. VI. С. 57.

[56] Наша Ніва. 1913. 16 жніўня.

[57] Пуцявінамі Янкі Купалы… С. 81.

[58] Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць… С. 199.

* Радзівіл Магдалена (1861—1945) — княгіня, мэцэнатка беларускага нацыянальнага руху. Фінансавала беларускія выдавецтвы, выданьне некаторых газэтаў і кніг. Асабліва сымпатызавала беларускім хрысьціянскім дэмакратам. — *А.П.*

[59] Наша Ніва. 1913. 12 верасьня; Вся Вильна на 1915 год. Гл. IV. С. 57.

[60] Ліст Вацлава Ластоўскага да Людвікі Сівіцкай ад 01.12.1913 г. Асабісты архіў Людвікі Войцік у Вільні.

га і Новага запавету для школаў, кніжкі для набажэнства, эвангельлі на нядзелі і сьвяты, гісторыя Царквы для школаў, беларуская граматыка, геаграфія, слоўнікі, арытмэтыка ды іншыя школьныя падручнікі, а таксама папулярныя кніжкі зь земляробства. Несумненна, такое значнае месца для рэлігійнай літаратуры адводзілася згодна з патрабаваньнямі княгіні Радзівіл, якая шчодра падтрымлівала беларускі каталіцкі рух і, між іншым, ахвяравала дыямэнтавае калье на пабудову беларускай духоўнай сэмінарыі[61]. БВТ, напэўна, было ня супраць выданьня рэлігійнай літаратуры, аднак надавала першынство прыгожаму пісьменству, календаром і школьным падручнікам. Таму яму даводзілася лявіяваць паміж жаданьнямі княгіні і грамадзкімі патрэбамі. За кароткі пэрыяд да выбуху першай сусьветнай вайны яно пасьпела выдаць пад сваёй эгідай 14 кніжак досыць значнага аб'ёму і, апрача таго, спрычынілася да выхаду колькіх кніжак, дзе назва выдавецтва не пазначалася. Сярод іх да рэлігійнай літаратуры належала толькі адна "Kantyczka". Каб задобрыць Радзівіліху, на пяці з выпушчаных кніжак быў зьмешчаны яе радавы герб: лебедзь на хвалях[62]. Гэты герб стаяў і на зборніку Максіма Багдановіча "Вянок", які выдалі ў канцы 1913 г. Вацлаў Іваноўскі і Іван Луцкевіч[63]. Трэба адзначыць, што БВТ было адзіным да першай сусьветнай вайны беларускім выдавецтвам, якое выплачвала аўтарскія ганарары[64]. Гэта надавала яму прэстыж і прываблівала супрацоўнікаў. Да таго ж пачалася распрацоўка школьных падручнікаў, што дазволіла іх выдаць неўзабаве — падчас нямецкай акупацыі.

Створаная і ўзначаленая Іваноўскім суполка "Загляне сонца і ў наша аконца" ў Пецярбургу і Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні за 1906—1915 г. выпусьцілі агульным лікам 52 кніжкі тыражом каля 150 тыс. асобнікаў[65]. Аднак фактычны плён яго ініцыятываў быў большы: сюды неабходна прыплюсаваць вынікі працы фармальна незалежных выдавецтваў "Грамада" і А. Грыневіча ў Пецярбургу. Апроч гэтага, ён намовіў варшаўскую фірму "Альфа Нобэль" і Агранамічнае бюро ў Вільні да выданьня некалькіх кніжак на беларускай мове, наапошку, выдаў колькі ўласных кніжак пад эгідай "Нашай Нівы". Таму поўны вынік выдавецкай дзейнасьці Іваноўскага за 1906—1915 г. налічваў каля 80 кніжак, наклад якіх сягаў 220 тыс. асобнікаў. Гэта складала амаль палову ад усіх выдадзеных на той час беларускіх кніжак і больш як 60% ад іх накладу.

Выдатная роля Іваноўскага як піянэра беларускага выдавецкага руху абумоўлівае таксама і якасныя паказьнікі яго дзейнасьці. Ён вярнуў з забыцьця найлепшыя творы беларускай літаратуры XIX ст., даў беларускаму чытачу шэраг перакладаў з польскай, украінскай і расейскай літаратуры, падтрымліваў творчасьць сучасных паэтаў і празаікаў, спрыяючы ўзьнікненьню і разьвіцьцю новай беларускай літаратуры. Выдадзеныя ім падручнікі на цэлае дзесяцігодзьдзе апярэдзілі зьяўленьне легальных беларускіх школаў, а сэрыя драматургічных твораў дапамагла станаўленьню аматарскіх тэатральных трупаў. Дзякуючы яго стараньням беларускі земляроб упершыню атрымаў сельскагаспадарчую літаратуру на роднай мове. Шмат зрабіў Іваноўскі і для распаўсюджаньня кнігі: нарэшце яна пачала зьяўляцца ў кнігарнях як беларуская кніжка, а ня як мясцовы фальклёр у расейскай упакоўцы.

На шляху да ажыцьцяўленьня пастаўленых мэтаў Іваноўскі пазьбягаў таннай рыторыкі і эфэктных пастулятаў, якія замяніў вялікімі і рацыянальнымі ўласнымі высілкамі.

---

[61] Як піша а. Аляксандар Надсан, княгіня М.М. Радзівіл ахвяравала калье на заснаваньне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме. Гл.: Надсан А. Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў–марыянаў у Друі (1924—1938). Менск, 2006. С. 87. — *А.С.* Гл. таксама с. 397 нашага выданьня. — *Рэд.*

[62] Гэта былі выдадзеныя ў 1914 г. кнігі "Родныя зьявы" Я. Коласа, "Рунь" М. Гарэцкага, "Курганная кветка" К. Буйлы, "Якім Бяздольны" [П.] Беларуса і "Васількі" Ядвігіна Ш.

[63] Ластоўскі В. Мае ўспаміны аб М. Багдановічу // Крывіч. 1926. № 1(11). С. 66.

[64] Александровіч С. Пуцявіны… С. 147.

[65] Тамсама.

Такім чынам, ён станавіўся прыкладам для іншых і прыцягваў да сябе прыхільнікаў, вучыў іх калектыўнай працы, хоць і не вымагаў ад іх болей, чым яны маглі даць. Імкнучыся памножыць канкрэтныя вынікі сваёй дзейнасьці, так важнай для адраджэньня Беларусі, ён ня дбаў пра самарэкляму і асабістую папулярнасьць, нярэдка замест сябе вылучаючы на першы плян сваіх паплечнікаў. Гэта дазваляла пазьбегнуць канфліктных сытуацыяў, але акурат таму сёньня мы ведаем значна больш пра вынікі яго працы, чым пра самога яе творцу.

Іваноўскі здолеў стварыць спрыяльную атмасфэру для сваёй дзейнасьці і ў сваёй сям'і. Яму дапамагалі жонка і браты Юры і Станіслаў. Іх польскае самавызначэньне пры гэтым не чыніла перашкоды. Сястра Галена ня толькі пісала гаспадарчыя парады для земляробаў па–беларуску, але ў 1914 г., карыстаючыся з сваіх знаёмстваў, завязаных падчас навучаньня ў Кембрыджы, зьмясьціла ў лёнданскім часопісе "Folk–Lore" тэксты пятнаццаці беларускіх песень з нотамі, запісаных у ваколіцы Лябёдкі. Публікацыя суправаджалася вялікім уступам, дзе брытанскіх чытачоў знаёмілі зь Беларусьсю і яе праблемамі. Упершыню ў ангельскай тэрміналёгіі пры гэтым быў выкарыстаны тэрмін "White Ruthenia" замест "White Russia". Новы назоў дапаўняўся знамянальным тлумачэньнем: "No White Ruthenian would ever allow him self to be called by a name that would imply that he was Russian"[66] ("Ніводзін беларус ніколі не дазволіць сябе называць імем, якое значыць, што ён — расеец" — *анг.*). Можна дапусьціць, што ў гэтай справе не абышлося без удзелу Вацлава, асабліва пры напісаньні інфармацыйнай прадмовы. Яшчэ адным прыхільнікам беларускай справы ў іх сямейным стане стала швагерка Марыя, музыказнаўца, жонка літоўскага дзяяча Яна Кіманта (Кімантаса), якая ў 1914—1918 г. кіравала беларускім хорам у Вільні[67].

Дзейнасьць Іваноўскага пасьля рэвалюцыі 1905 г. праходзіла пад лёзунгам, які быў алюзіяй на дэвіз пецярбурскай выдавецкай суполкі і які выражаў перакананьне, што сонца загляне нарэшце і ў вокны беларускіх хат. Гэта быў абстрактны лёзунг, і кожны з чытачоў выдаваных кніжак мог разумець яго па–свойму. У тагачасных публікацыях Іваноўскага мы ня знойдзем спробаў сфармуляваць спэцыфічныя лёзунгі або палітычныя праграмы. Іх Іваноўскі замяніў канкрэтнай стваральнай працай, якая сама па сабе несла выразны палітычны сэнс, бо спараджала ўвесь час новыя каштоўнасьці, якія стымулявалі працэс нацыянальнага адраджэньня. І таму вынікі гэтай яго працы віталі ўсе прыхільнікі беларускага рэнэсансу незалежна ад іх палітычных поглядаў. Ня ставілі іх пад сумнеў і пазьнейшыя крытыкі беларускага нацыянальнага руху.

Прагрэс руху, які да першай сусьветнай вайны разьвіваўся амаль выключна ў культурнай сфэры (кніжкі, часопісы, культурна–асьветніцкія і рэлігійныя каталіцкія арганізацыі), уплываў на пашырэньне нацыянальнай сьвядомасьці, а гэта штораз больш непакоіла ідэолягаў "адзінай і непадзельнай" Расеі, якія бачылі ў ім пагрозу ўзьнікненьня й пашырэньня сэпаратысцкіх настрояў. У прыватнасьці, актывізавалі свае высілкі прыхільнікі гэтак званага "заходнерусізму", але ім не ўдалося стварыць суцэльнай ідэалёгіі, якую можна было б проціпаставіць ідэям беларускага нацыянальнага адраджэньня. Затое расейскі ўрад трымаўся лібэральнай палітыкі і не мяшаўся ў барацьбу дзьвюх варожых плыняў — беларускай і "западнорусской". Гэта стварала адпаведныя ўмовы для сумленнай ідэалягічнай канкурэнцыі, пры якой нацыянальны бок, які мог разьлічваць адно на ўласныя сілы, яўна пераходзіў да контратакі, спадзеючыся разьбіць "заходнерусізм" і дабіцца ад ураду афіцыйнага прызнаньня беларускай нацыі і мовы[68].

У барацьбе з "заходнерусізмам" беларускі бок заваёўваў сымпатыю і падтрымку польскай грамадзкай думкі. Пра гэта сьведчылі шматлікія публікацыі апошніх даваен-

[66] Iwanowska H., Onslow H. Some White Ruthenian Folk–Songs // Folk–Lore. 1914. P. 92.

[67] Янушкевіч Я. Марыя Ячыноўская–Кімонт // ЛіМ. 1986. 27 чэрвеня.

[68] Цьвікевіч А. "Западно–руссизм"… С. 328–330.

ных гадоў, прысьвечаныя разнастайным аспэктам беларускага руху, які трактаваўся як натуральны саюзьнік на шляху да незалежнасьці[69]. У 1910 г. Чэслаў Янкоўскі, хаця і бачыў слабасьць беларускай інтэлігенцыі ды абыякавасьць народных масаў, але лічыў, што, нягледзячы на русіфікацыю і апалячваньне, найбольшы шанец на здабыцьцё сымпатыі гэтых масаў — за беларускай нацыянальнай справай. “Шмат людзей вымкнецца зь яе рук на ўсход і на захад, — пісаў Янкоўскі, — але і тое, што застанецца, можа зь цягам часу скласьці даволі значную нацыю”[70]. Зьяўленьне такіх ацэнак колькі гадоў пасьля выданьня лемантара адлюстроўвала імклівы прагрэс нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларусаў за той нядоўгі час, што папярэднічаў першай сусьветнай вайне. Урэшце “зь нічога” пачало нараджацца “нешта”.

## З Расеяй ці з Польшчай?

Першая сусьветная вайна разбурыла ранейшы, усталяваны ў XIX ст. геапалітычны расклад у Цэнтральна–Ўсходняй Эўропе і стварыла для нацыяў гэтай часткі кантынэнту надзею на аднаўленьне дзяржаўнасьці. Палітыкі паняволеных царызмам нацыяў разумелі, што дабіцца незалежнасьці адно толькі ўласнымі сіламі немагчыма. Таму яны арыентаваліся на падтрымку вялікіх дзяржаваў у залежнасьці ад іх ваеннай магутнасьці ды здольнасьці ўплываць на фармаваньне пасьляваеннага парадку ў Эўропе.

У палітычнай стратэгіі маладога беларускага нацыянальнага руху пераважала прарасейская арыентацыя. Прычынай тут былі як эканамічныя сувязі з Расеяй, так і супольнае веравызнаньне — нагадаем, што на рубяжы XX ст. праваслаўныя складалі 70% насельніцтва Беларусі (у цяперашніх яе межах). Свой уплыў на такую арыентацыю зрабіла і досыць лібэральная палітыка царскіх уладаў пасьля рэвалюцыі 1905 г., якая дазволіла дасягнуць рэальных здабыткаў на ніве культуры і пашырэньня нацыянальнай сьвядомасьці. Праўда, у гэтых колах разумелі, што прагрэс тут усё яшчэ недастатковы, але меркавалі, што за дзясятак–другі гадоў такая арганічная праца прывядзе да масавага пашырэньня нацыянальнай сьвядомасьці. Асаблівыя спадзяваньні зьвязваліся з дэмакратызацыяй грамадзкага жыцьця, якая дала б магчымасьць завяршыць працэс адраджэньня. Выразам гэтага былі дамінуючыя сярод палітычных дзеячоў спадзевы на здабыцьцё тэрытарыяльнай аўтаноміі Беларусі ў расейскай дзяржаве.

Параза расейскіх войскаў ува Ўсходняй Прусіі ў жніўні 1914 г. насамрэч да канца не перадвызначыла канчатковых вынікаў расейска–нямецкай вайны, але паказала, што ў далейшым для Расеі яна можа скончыцца няўдала. Гэта падштурхнула расейскія ўлады да пэўнай мадыфікацыі нацыянальнай палітыкі на заходніх ускраінах імпэрыі. Таму напярэдадні нямецкага наступу на Ўсходнім фронце ўлады былі ўжо гатовыя прадэманстраваць “новы курс” у беларускім пытаньні. Пра гэта сьведчылі, у прыватнасьці, намінкі на ўвядзеньне беларускай мовы ў школах[1] і дазвол на стварэньне, апрача літоўскага і польскага, беларускага Таварыства па аказаньні помачы пацярпелым ад вайны (БТАПВ). Гэтыя захады павінны былі пераканаць беларусаў, што стаўленьне да іх гэткае самае, як і да іншых нацыянальнасьцяў заходніх губэрняў.

9 сакавіка 1915 г. віленская губэрская ўправа па справах аб’яднаньняў зацьвердзіла статут Беларускага таварыства па аказаньні помачы пацярпелым ад вайны, якое пасьля таго, як 29 красавіка яго ўхваліў губэрнатар, магло прыступіць да працы. Старшынём праўленьня Таварыства стаў Вацлаў Іваноўскі, а яго намесьнікамі — Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі. Сябрамі праўленьня былі Павал Аляксюк, Ігнат Біндзюк, Уладзіслаў

[69] Гэтай праблематыкай займаліся асабліва “Przegląd Wileński”, “Litwa”, “Kurjer Litewski”, “Kraj”, “Tygodnik Ilustrowany” (1912. № 37—38), “Świat Słowiański” (1912. T. I), “Litwa i Ruś” (1913. № 6).

[70] Jankowski C. Kwestia Białoruska // Kurjer Warszawski. 1910. 24—25 lipca.

[1] Наша Ніва. 1915. 19 сакавіка.

Сталыгва, ксёндз Савіцкі, Ігнат Буйніцкі ды Н. Клім. Управа Таварыства зьмяшчалася ў Вільні, на Георгіеўскім праспэкце, 11, яно мела права дзеяць на тэрыторыі Менскай, Магілёўскай, Гарадзенскай, Віленскай і Віцебскай губэрняў. У сакавіку 1915 г. управа БТАПВ выдала адозву "Да грамадзян Беларусі", у якой заклікала насельніцтва да супольнай ахвярнай працы дзеля ажыцьцяўленьня сваіх галоўных задач: сацыяльнага забесьпячэньня (харчаваньне, раскватэраваньне, мэдычная дапамога) і помачы вяскоўцам у аднаўленьні маёмасьці, зьнішчанай вайной[2].

Такім чынам, Вацлаў Іваноўскі ўзначаліў арганізацыю, дзейнасьць якой у пэрспэктыве распасьціралася на ўсю Беларусь. Нягледзячы на дабрачынны характар (зрэшты, вызначаны ня так ужо і строга), БТАПВ было адзінай афіцыйнай грамадзкай беларускай арганізацыяй, якую падтрымлівалі ўлады[3]. Дзеля гэтага ў яе ўзьнікалі вялікія магчымасьці для канцэнтрацыі нацыянальных сілаў і каардынацыі пазастатутнай дзейнасьці. Пра гэта сьведчыць, між іншым, перадача Таварыствам грашовых сродкаў на патрэбы віленскіх выдавецтваў[4]. Паводле інфармацыі Людвікі Войцік (тады — Сівіцкай), дзяячкі Таварыства, улетку 1915 г. паўсталі яго аддзяленьні ў Менску і Петраградзе[5]. Гэта магло значыць, што ўправа Таварыства імкнулася да стварэньня неабходных для актыву апорных пунктаў у гарадох, якія мелі ключавое значэньне для палітычнай дзейнасьці.

Хада ваенных падзеяў выклікала істотныя зьмены ў працу Таварыства. Улетку 1915 г. нямецкія войскі распачалі ўдалы наступ на ўсходзе і ў сярэдзіне верасьня ўвайшлі ў Вільню. Пад канец месяца яны дасягнулі лініі Дзьвінск—Браслаўе—Баранавічы—Пінск, пасьля чаго ваенныя дзеяньні перапыніліся аж да лютага 1918 г. Лінія фронту расьсекла Беларусь: каля 25% яе абшару займалі немцы, астанюю ж частку — расейскія войскі. Перш як гэта зьдзеялася, расейскія ўлады арганізавалі шырокую эвакуацыйную кампанію, яна ахапіла шматлікія ўстановы і ўправы, прадпрыемствы, большую частку праваслаўнага духавенства[6] і вялікія масы насельніцтва. У выніку, на ўсход было эвакуавана пад прымусам альбо добраахвотна больш за 1,1 млн. жыхароў Беларусі, сярод іх больш за 80% складалі выхадцы з Гарадзенскай і Віленскай губэрняў[7].

У гэтай сытуацыі праўленьне БТАПВ прызнала, што варта было б распасьцерці сваю дзейнасьць на абодва бакі нямецка–расейскага фронту, разьлічваючы, відаць, атрымаць ад нямецкіх уладаў дазвол на яго функцыянаваньне ў зоне акупацыі. Таму ў Вільні засталіся два намесьнікі старшыні — А. Луцкевіч і В. Ластоўскі, — а Вацлаў Іваноўскі выехаў у Расею. Асабіста для яго гэта было нялёгкае рашэньне — у Вільні ён пакідаў сям'ю: жонку Сабіну з трыма дзецьмі — Сьцяпанам, Вацлавам і колькімесячнай Ганнай. Неўзабаве яны пераехалі ў радавы маёнтак Лябёдку.

---

[2] Тамсама. 1915. 16 красавіка і 25 траўня.

[3] А. Луцкевіч, які быў намесьнікам старшыні Таварыства да верасьня 1915 г. паказвае, што царскія ўлады хутчэй не падтрымлівалі таварыства, а цярпелі яго. У сваім артыкуле "Ўнутраная работа" ён пісаў:

> На вялікі жаль, Т–ва магло выяўляць сваю чыннасьць толькі ў надта малой меры: яно ня мела патрэбных грошы, бо расейскае правіцельства, каторае памагала ўсім нацыянальным таварыствам дзеля помачы пацярпеўшаму ад вайны насяленьню цераз Тацьцянаўскі камітэт, аб'явіла беларусам байкот і не давала ім ні аднэй капейкі, сыплючы іншым сотні тысяч рублёў. Уся "падмога", якую Беларускае Т–ва атрымала з расейскіх рук, гэта былі... 360 рублёў!

*Крыніца*: Луцкевіч А. Унутраная работа // Беларускі каляндар на 1917 год. Вільня, 1916. — *А.С.*

[4] Александровіч С. Кнігі і людзі. Мінск, 1976. С. 89.

[5] Ліст Л. Войцік да аўтара ад 28.11.1986 г. Аднак арганізацыя петраградзкага аддзяленьня сутыкнулася з пэўнымі цяжкасьцямі. Паводле інфармацыі, пададзенай у часопісе "Сьветач" (1916. 9 лістапада), яно было канчаткова створана 31 студзеня 1916 г. — *Ю.Т.*

[6] Паводле А. Луцкевіча, на акупаванай тэрыторыі засталося 3—4 праваслаўныя сьвятары, паводле У. Ляхоўскага — іх было дзесяць. — *А.С.*

[7] Сташкевич Н. Приговор революции. Крушение антисоветского движения в Белоруссии 1917—1925. Минск, 1985. С. 57.

Фармальна переезд Іваноўскага ў Расею быў абумоўленыя яго функцыяй старшыні БТАПВ. Яму падпарадкоўваліся менскае і петраградзкае аддзяленьні Таварыства, апрача таго, ён разьлічваў на магчымасьць заснаваць новыя аддзелы БТАПВ на неакупаваных абшарах Беларусі ды ў месцах канцэнтрацыі эвакуаванага ў глыб Расеі насельніцтва. Можна, аднак, меркаваць, што гэта быў не адзіны матыў: чыньнікам, які найболей спрычыніўся да такога рашэньня, было яго перакананьне, што ў тагачасных умовах толькі супрацоўніцтва з Расеяй зможа гарантаваць Беларусі пасьпяховае гаспадарчае і культурнае разьвіцьцё. Да такой пазыцыі яго схінаў ня толькі дагэтулешні досьвед дзейнасьці ў Пецярбургу і Вільні, але і нявера ў падтрымку ідэі беларускай дзяржаўнасьці з боку Нямеччыны, у чым засталыя ў Вільні беларускія дзяячы неўзабаве змаглі пераканацца.

У верасьні 1915 г. Іваноўскі пераехаў у Арол, куды эвакуавалася Віленскае сельскагаспадарчае таварыства. Дзякуючы яго захадам да гэтай групы ўцекачоў далучылася колькі віленскіх беларусаў, між іншым, калега па выдавецкай справе Янка Купала і архітэктар Лявон Дубейкаўскі. Аднак у Арле не было ўмоў для разьвіцьця грамадзкай дзейнасьці, і таму кола эвакуаваных беларускіх дзяячоў пачало памяншацца. Неўзабаве Я. Купала выехаў у Маскву, а В. Іваноўскі з Л. Дубейкаўскім пачалі дамагацца пераводу ў Петраград[8]. Адзіным цямкім сьледам, які пакінуў па сабе Іваноўскі ў Арле, была заснаваная ім фабрыка гранатаў для расейскай арміі[9].

Улетку 1916 г. В. Іваноўскі перабраўся ў Петрагарад, дзе стаў упаўнаважаным Міністэрства земляробства па забесьпячэньні фабрык сельскагаспадарчых прыладаў палівам і сыравінай[10]. Тут ён засьпеў сваіх нядаўніх супрацоўнікаў, кола якіх значна пашырылася за кошт прыплыву дзяячоў, эвакуаваных зь Беларусі. Гэта былі Зьмітро Жылуновіч, Эдвард Будзька, Клаўды Душэўскі, Браніслаў Эпімах–Шыпіла, Аляксандар Ярэміч, Браніслаў Тарашкевіч, Аляксандар Чарвякоў, Тамаш Грыб, Палута Бадунова, ксяндзы Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі ды інш. Неўзабаве яны пяройдуць да актыўнай палітычнай дзейнасьці, якая, хоць і пад рознымі партыйнымі сьцягамі, скіроўвалася да адзінай мэты — стварэньня незалежнай Беларусі. Пакуль што ўсе гуртаваліся вакол петраградзкага аддзяленьня БТАПВ, разьмешчанага па адрасе: вул. Знаменская, 36.

Галоўным кірункам дзейнасьці Таварыства было матэрыяльнае, мэдычнае і юрыдычнае забесьпячэньне ўцекачоў ды іх працаўладкаваньне. Апрача таго, ладзіліся спэктаклі ды іншыя імпрэзы, прыбытак зь якіх дапаўняў сьціплыя ўрадавыя датацыі на дабрачынныя патрэбы. У лістападзе 1916 г. у Петраградзе адчынілася беларуская асноўная школа і пачалося выданьне тыднёвікаў “Сьветач”* і “Дзяньніца”, якія, аднак, выходзілі толькі да канца сьнежня 1916 г. На гэта паўплывалі як фінансавыя прычыны, так і незычлівае стаўленьне ўладаў: да апошніх дзён царскага рэжыму ўрад супраціўляўся разьвіцьцю палітычнай дзейнасьці сярод “нерасейскіх” народаў імпэрыі[11]. Толькі пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расеі беларускі палітычны рух ажывіўся. Адразу ж пасьля зрыненьня царызму пасьля дзесяцігадовага перапынку аднавілася дзейнасьць Беларускай сацыялістычнай грамады, паўстала партыя Беларускіх народных сацыялістаў (магчыма, маецца на ўвазе Беларуская народная партыя сацыялістаў. — *Рэд.*), арганізаваліся хрысьціянскія дэмакраты ды іншыя групоўкі. Аднак кіруючая роля на беларускай палітычнай арэне належала БСГ. Галоўныя асяродкі яе дзейнасьці разьмяшчаліся ў Петраградзе і Менску на базе аддзелаў БТАПВ. 25 сакавіка 1917 г. БСГ склікае ў Менску партыйную

---

[8] Вітан К. Лявон Вітан–Дубейкаўскі. Да 85 угодкаў нараджэньня. Нью–Ёрк, 1954. С. 9; Янка Купала. Спадчына. Мюнхэн, 1955. С. XLI.

[9] Станкевіч Я. З гісторыі Беларусі. Мюнхэн, 1958. С. 77.

[10] Łoza S. (red.) Czy wiesz, kto to jest? Warszawa, 1938. S. 273.

*“Сьветач” — грамадзка–палітычная газэта лібэральна–асьветніцкага накірунку, якая выдавалася ў Петраградзе ў лістападзе — сьнежні 1916 г. пад рэдакцыяй Эдварда Будзькі. — *А.П.*

[11] Войцік Л. Успаміны. Аўтарскі машынапіс. Вільня, бяз даты. С. 8.

канфэрэнцыю, якая падтрымала Часовы ўрад, выказалася за аўтаномію Беларусі ў рамках рэспубліканскай фэдэрацыйнай Расеі, а таксама — за перадачу зямлі сялянам. У гэтым апошнім пункце канфэрэнцыя асудзіла стыхійныя выступленьні сялянства і запатрабавала, каб аграрнае пытаньне вырашалася на краёвым сойме Беларусі[12].

Даўнейшых дзяячоў БСГ парасьцярушыла па сьвеце вайна, і адзіным прадстаўніком яе традыцыяў у петраградзкім асяродзьдзі быў Іваноўскі як сузаснавальнік і чалец абранага ў сьнежні 1905 г. кіраўніцтва. Відаць, гэтая акалічнасьць падштурхнула пазнейшых публіцыстаў да высновы, нібыта ён быў вядучым дзяячом БСГ у Петраградзе і пасьля падзеньня царскага рэжыму[13]. Таму не выпадкова яго абралі за прадстаўніка БСГ у Беларускім нацыянальным камітэце (БНК), устаноўчы зьезд якога адбываўся ў Менску з 25 па 27 сакавіка 1917 г.[14].

Але В. Іваноўскі не паехаў у Менск і ня ўдзельнічаў у канфэрэнцыі БСГ і зьезьдзе палітычных партыяў, а ў БНК яго абралі завочна. На гэта ўказвае пратакол зьезду, які пастанавіў зьвярнуцца да В. Іваноўскага, гэтаксама, як і да некалькіх іншых адсутных асобаў, з просьбай прыняць удзел у арганізацыі асьветніцкага таварыства “Прасьвета”. Не фігуравала яго імя і ў складзе абранай зьездам дэлегацыі БНК да прэм’ера Часовага ўраду князя Юр’я Львова. Іваноўскага далучылі да гэтай дэлегацыі ўжо ў красавіку, пасьля таго, як ён прыехаў у Петраград[15].

Спатканьне з князем Львовым пераканала Іваноўскага ў тым, што Часовы ўрад, гэтак жа, як некалі царскі, не прызнаваў самастойнасьці беларускага народу і ў сувязі з гэтым адмовіўся прызнаць БНК як палітычнае прадстаўніцтва Беларусі. На гэта, безумоўна, паўплывала слабасьць беларускага руху, які пасьля Лютаўскай рэвалюцыі вызначаўся яшчэ вялікай інфантыльнасьцю, спадзеючыся перадусім на падтрымку Часовага ўраду. Множыліся загрузлыя ў грызьні паміжсобку партыі і групоўкі, кожная зь якіх прэтэндавала на ролю выразьніка адзіна слушнай канцэпцыі нацыянальнага вызваленьня, перабольшваючы сваю падтрымку ў грамадзтве і заліваючы Петраград плынямі дэкларацыяў і патрабаваньняў. Ніводная з гэтых партыяў да траўня 1917 г. ня мела нават свайго друкаванага органа.

Для праціўнікаў нацыянальнага беларускага руху і абаронцаў непадзельнай Расеі гэта адкрывала шырокае поле для маніпуляцыяў гэтым рухам. Так, выкарыстоўваючы акалічнасьць, што прынамсі палову чальцоў БНК складалі каталікі, яны распачалі на сялянскіх зьездах і рабочых сходах энэргічную кампанію кампрамэтацыі Камітэту як польска–каталіцка–памешчыцкай інтрыгі, пакліканай адарваць Беларусь ад Расеі і загнаць беларускае сялянства ў ярмо польскіх паноў[16]. У выніку гэтай кампаніі, а таксама ўзрастаючай радыкалізацыі грамадзкіх настрояў, большасьць беларускіх сацыялістычных дзяячоў прызнала стварэньне БНК на чале з Р. Скірмунтам палітычнай памылкай і дзеля “рэабілітацыі” ідэі нацыянальнага адраджэньня 10 ліпеня 1917 г. стварыла асобную Цэнтральную раду беларускіх арганізацыяў і партыяў, якая мелася прадстаўляць адно “прагрэсіўныя і дэмакратычныя” згуртаваньні[17].

У гэтай сытуацыі Беларускаму нацыянальнаму камітэту давялося сысьці з палітычнай сцэны. Рэвалюцыя адштурхоўвала Р. Скірмунта, які быў ня толькі буйным землеўласьнікам, але і найперш — як дэпутат Дзяржаўнай думы — кампэтэнтным і дасьведчаным палітыкам. За “рэакцыянэраў” прызналі таксама хадэкаў і прадстаўнікоў сялянскіх рухаў

[12] Dziennik Pietrogradzki. 14.04.1917. — *Ю.Т.*

Камунікат аб канфэрэнцыі БСГ надрукаваны ў: ARCHE. 2006. № 4. С. 160—161. — *А.С.*

[13] Езавітаў К. У 25–я ўгодкі Ўсебеларускага Кангрэсу // Раніца. 1943. 8 жніўня.

[14] 25—25.03(7—9.04).1917 г. у Менску адбыўся зьезд беларускіх нацыянальных арганізацыяў. Пратакол зьезду гл. у: ЛіМ. 1990. 14 сьнежня. — *А.С.*

[15] ЛіМ. 1990. 14 сьнежня. Dziennik Pietrogradzki. 14.04.1917.

[16] Турук Ф. Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов. М., 1921. С. 27—28.

[17] Тамсама.

(ludowców), хаця сярод іх толькі нямногія маглі пахваліцца шляхецкім паходжаньнем. У нармальных умовах гэты ўчынак быў бы раўназначны самагубству, але пры нігілістычнай нацыянальнай палітыцы ўраду і яго хісткай пазыцыі ён ня меў вялікага значэньня.

В. Іваноўскі ня выпаў з гэтай гульні толькі таму, што ня браў у ёй удзелу. Ён чакаў, пакуль настане пара для канструктыўнай працы. Праўда, ён не парываў з БСГ, але не адыгрываў значнай ролі ў яе дзейнасьці. Таму мы ня бачым яго сярод сяброў часовага Цэнтральнага камітэту БСГ, абранага ў чэрвені ў Петраградзе, ані ў складзе беларускай дэлегацыі на жнівеньскай агульнарасейскай палітычнай канфэрэнцыі ў Маскве[18]. Ня ўдзельнічаў ён у кастрычніцкім зьезьдзе БСГ у Менску. Паводле інфармацыі Людвікі Войцік, былой сакратаркі БНК і Цэнтральнай рады, у гэты час В. Іваноўскі ўвогуле не паказваўся ў Менску[19]. Ён бязвыезна жыў у Петраградзе, назіраючы за агоніяй Часовага ўраду і зьвязваючы свае надзеі на вырашэньне беларускага пытаньня з праграмай бальшавіцкай партыі.

Як сьцьвярджае беларускі гісторык Васіль Раманоўскі, В. Іваноўскі сустрэў Кастрычніцкай рэвалюцыю “зь нянавісьцю”[20]. Гэта адна з тыповых выдумак нядаўняй гістарыяграфіі, якая, згодна з партыйнай замовай, павіна была маляваць палітычны партрэт гэтага чалавека як ворага народу і савецкай улады ад самага яе нараджэньня. Між тым, акурат пасьля кастрычніцкага перавароту В. Іваноўскі пабачыў, што дзейнічаць мае сэнс, і адразу ж прыступіў да палітычнай дзейнасьці, разьлічваючы, што беларусам удасца выкарыстаць заклікі Леніна да стварэньня новага грамадзкага і нацыянальнага ладу.

Таму Іваноўскі ўзяў удзел у падрыхтоўцы найважнейшай для Беларусі падзеі тых дзён — Усебеларускага зьезду, які, з ухвалы і пры фінансавай падтрымцы ўзначаленага Сталіным Народнага камісарыяту ў справах нацыянальнасьцяў, зьбіраўся ў Менску 5 сьнежня 1917 г.[21]. Ад імя беларускага народу зьезд павінен быў вырашыць долю Бацькаўшчыны і вызначыць галоўныя кірункі яе разьвіцьця. Іваноўскі быў на зьезьдзе дэлегатам ад Петраградзкай арганізацыі БСГ і працаваў там, між іншым, як экспэрт яго фінансава–эканамічнай камісіі. Ён павінен быў выступіць з рэфэратам пра эканамічную сытуацыю ў Беларусі і адбудову яе ваенных разбурэньняў[22].

Аднак рэфэрат В. Іваноўскага так і не прагучаў, бо ў ноч з 17 на 18 сьнежня, паводле загаду старшыні Савету народных камісараў Заходняй акругі ў Смаленску К. Ландэра, салдаты менскага гарнізону разагналі зьезд, а яго прэзыдыюм арыштавалі. Гэтая акалічнасьць спарадзіла чарговы “тэзіс” партыйнай гістарыяграфіі: калі зьезд разагналі бальшавікі — значыць ён быў антыбальшавіцкі, антысавецкі, а таму — буржуазны і сэпаратысцкі, г.зн. у найвышэйшай ступені шкодны. Такую ацэнку замацоўвалі публікацыі беларускіх нацыянальных гісторыкаў, якія коштам фальсыфікацыі дакумэнтаў спрабавалі давесьці антыбальшавіцкі і незалежніцкі характар зьезду[23].

Таму варта прывесьці поўны тэкст першага і адзінага пункту рэзалюцыі зьезду, які быў прыняты перад тым, як дэпутатаў разагналі салдаты К. Ландэра. Ён гучаў так (вылучэньні аўтара. — *Ю.Т.*):

> Замацоўваючы сваё права на самавызначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй і зацьвярджаючы дэмакратычны рэспубліканскі лад у межах Беларускай зямлі, для ўратаваньня роднага краю і *захаваньня яго ад падзелу і адарваньня ад Расейскай Дэмакратычнай Фэдэрацыйнай Рэспублікі* I Усебеларускі зьезд пастанаўляе: безадкладна ўтварыць із свайго складу орган кра-

[18] На ўвазе маецца скліканая Часовым урадам дзяржаўная нарада, якая праходзіла 12—15 (25—28).08.1917 г. у Маскве і ў якой бралі ўдзел прадстаўнікі грамадзка–палітычных арганізацыяў і дзяржаўных установаў Расеі. — *А.С.*

[19] Ліст Л. Войцік да аўтара ад 28.01.1979 г.

[20] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 77.

[21] Другі ўсебеларускі кангрэс. Мюнхэн, 1954. С. 12.

[22] Беларуская Рада. 1917. № 6.

[23] Туронак Ю. Нежаданая рэспубліка. С. 66—80 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

ёвае ўлады ў выглядзе *Ўсебеларускай рады сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў*, які часова стаецца на чале кіраўніцтва краем, уваходзячы ў зносіны з цэнтральнай уладай, адказнай перад Радай рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў[24].

Такім чынам, зьезд быў ні антысавецкі, бо склікаў савецкі орган улады ў Беларусі[25], і ні сэпаратысцкі, бо выказаўся супраць адрыву ад Расеі. Згодна з праграмай бальшавікоў, былі і іншыя праекты рэзалюцыі, да прыкладу, патрабаваньне неадкладнай перадачы зямлі сялянам бяз выкупу, увядзеньне народнага кантролю над прамысловасьцю і гандлем ды інш. Іх не паставілі на галасаваньне таму, што зьезд быў разагнаны. Аб характары гэтага зьезду сьведчаць таксама і тэлефонныя перамовы яго старшыні з Сталіным падчас паседжаньняў ды, нарэшце, тэлеграмы самога К. Ландэра ў Петраград, дзе ён сьцьвярджаў, што зьезд "у прынцыпе выказаўся за прызнаньне савецкай улады"[26]. Сапраўднай прычынай разгону зьезду было яго імкненьне стварыць на Беларусі ўласны *беларускі орган савецкай улады* замест саветаў прышлых чужынцаў–камісараў, якія гэтак жа, як Мураўёў і Керанскі, не прызнавалі беларускага народу і яго права на самавызначэньне.

Гэтак у сьнежні 1917 г. сярод беларускіх дзяячоў, зарыентаваных на савецкую Расею, упершыню здарыўся сур'ёзны крызіс даверу. Ленінскім дэкларацыям не адпавядалі паводзіны мясцовых уладаў, стаўленьне якіх да беларускай дзяржаўнасьці, нават савецкай, мала чым адрозьніваліся ад ранейшай імпэрскай палітыкі. Пра гэта сьведчылі і мірныя савецка–нямецкія перамовы ў Берасьці канца 1917 — пачатку 1918 г., падчас якіх беларускае пытаньне было праігнараванае. Усё гэта спрыяла пашырэньню незалежніцкіх настрояў сярод гэтых дзяячоў, хаця большасьць зь іх усё яшчэ азіралася на Расею, мяркуючы, што ў рэшце рэшт толькі яна вырашыць лёс Беларусі.

У гэтым сэнсе Іваноўскі таксама не зьмяніў сваёй прарасейскай арыентацыі, хаця брутальны разгон зьезду ўспрыняў зь вялікім засмучэньнем. Але неўзабаве пасьля вяртаньня Іваноўскага ў Петраград адбылася падзея, якая нібыта пацьвердзіла, што пастанова К. Ландэра разагнаць менскі зьезд супярэчыла пазыцыі цэнтральных уладаў. 31 студзеня 1918 г. быў выдадзены дэкрэт Леніна аб стварэньні Беларускага нацыянальнага камісарыяту (Белнацкому) як аддзелу Народнага камісарыяту па справах нацыянальнасьцяў. Гэты крок павінен быў засьведчыць, што Ленін і Сталін зацікаўленыя ў тым, каб вырашыць беларускае пытаньне і ў выніку распружыць напяцьце сярод беларускіх палітычных дзяячоў. Таму гэта выглядала як спроба выправіць сытуацыю, створаную смаленскімі інтэрнацыяналістамі.

Дэкрэт Леніна меў вялікае прапагандысцкае значэньне, але ня выклікаў у кароткатэрміновай пэрспэктыве істотных зьменаў у палітычным становішчы ў Беларусі. У лютым 1918 г. Белнацком пераняў на сябе паўнамоцтвы ранейшага Беларускага таварыства па аказаньні помачы пацярпелым ад вайны і заняў яго памяшканьне на вуліцы Знаменскай, 36. У сакавіку ён распачаў выданьне газэты пад колішняй назвай "Дзяньніца". Не зьмяніўся нават яе рэдактар, Зьмітро Жылуновіч, адно што цяпер ён уступіў у бальшавіцкую партыю і стаў сакратаром Белнацкому[27]. Гэтаксама, як і раней, распрацо-

[24] Белорусская Рада. 1917. № 12.

[25] У НАРБ (ф. 325, воп. 1, адз. захав. 6, арк. 21) захоўваецца машынапісная копія пратаколу паседжаньня агульнага сходу сяброў 1–га Ўсебеларускага зьезду ў дэпо Лібава–Роменскай чыгункі раніцай 18 сьнежня 1917 г. На гэтым паседжаньні Рада зьезду была абвешчана часоваю краёваю ўладаю. Тамсама маецца копія рэзалюцыі Рады зьезду, прынятай 21 сьнежня. Рада прызнала сябе часоваю ўладаю і вырашыла папоўніць свой склад прадстаўнікамі сялянаў, рабочых і салдатаў, а таксама нацыянальных меншасьцяў у асобе іх сацыялістычных партыяў. Было вырашана вылучыць з складу Рады выканаўчы камітэт 1–га Ўсебеларускага зьезду. Рада даручала Выканаўчаму камітэту прыняць на сябе функцыі выканаўчай улады ў Беларусі. Мелася на ўвазе, што Выканкам сфармуе ўрад, якому была дадзена назва "Ўрад народных камісараў". — *А.С.*

[26] Турук Ф. Тамсама, с. 108.

[27] З. Жылуновіч уступіў у бальшавіцкую партыю толькі ў кастрычніку 1918 г. Да гэтага ён быў левым грамадаўцам. — *А.С.*

ўваліся амбітныя праекты культурнай дзейнасьці, якія заставаліся пераважна на паперы. І хаця яго паўнамоцтвы і сродкі былі абмежаваныя, усё ж гэта быў орган, упаўнаважаны перааказваць уладам беларускія палітычныя патрабаваньні. Але пакуль што, у лютым — сакавіку 1918 г., ані ўлады, ані Белнацком ня мелі на гэта часу — усе сядзелі на валізах і чакалі пераезду ў новую сталіцу — Маскву.

Перш як гэта зьдзеялася, палітычная сытуацыя зноў радыкальна зьмянілася. Імкнучыся прымусіць савецкую Расею прыняць умовы міру, нямецкія войскі 18 лютага рушылі на ўсход і, не сустрэўшы адпору, за колькі дзён дайшлі да Дняпра і Дзьвіны, г.зн. занялі амаль усю Беларусь. Толькі ў гэтай сытуацыі ў Берасьці 3 сакавіка была падпісаная дамова пра мір, якую неўзабаве ратыфікавалі абодва бакі. Сярод іншых пытаньняў дамова прызнавала акупацыю беларускіх земляў кароткачасовай — яны меліся быць вернутыя Расеі пасьля выплаты ёй ваенных кантрыбуцыяў. Апрача гэтага, яна стварала магчымасьць уцекачом вярнуцца дадому.

Такім чынам, беларускія дзеячы ў Петраградзе неспадзявана былі адцятыя ад краіны новай расейска–нямецкай дэмаркацыйнай лініяй і апынуліся ў становішчы ледзь не эмігрантаў. Гэтая група камуністаў, згуртаваных вакол Белнацкому, магла тэарэтычна фармуляваць палітычныя патрабаваньні, але рэальная праца чакала ў краіне. Таму неўзабаве яны пачалі разьяжджацца ў розных кірунках. У красавіку большасьць дзеячоў Белнацкому выехала ў Маскву, а В. Іваноўскі падаўся на радзіму.

Пад канец красавіка Вацлаў дабраўся да Лябёдкі. Тут ён ня быў амаль тры гады і гэты час нічога ня ведаў пра лёс сваёй сям’і і маёмасьці. Тым часам вайна і акупацыя зруйнавалі гаспадарку. У верасьні 1915 г. у садох Лябёдкі спыніўся расейскі 40–вы корпус разам з артылерыяй і абозам. Пасьля яго адступленьня ад расаднікаў засталося гумно, ад дрэваў — голыя шкілеты[28]. Пазьней пачаліся бязьлітасныя нямецкія рэквізыцыі. Леанарду было ўжо тады за семдзесят, і ён цяжка перажываў разбурэньне справы цэлага жыцьця. Спрабаваў пратэставаць, бараніць, але немцы за гэта замкнулі яго ва ўласным склепе, праўда, ненадоўга. Усё гэта падтачыла сілы Леанарда, так што Вацлаў пабачыў зламанага, хворага бацьку, зусім не падобнага да нядаўняга гордага сапраўднага дзяржаўнага радніка і гаспадара Лябёдкі. Доўгае расстаньне дало сябе знаць і ўва ўзаемаадносінах з Сабінай — неўзабаве разлад паміж ёю і Вацлавам перарасьце ў поўны распад сям’і...

За лінію фронту не траплялі таксама і весткі пра стан беларускіх земляў, якія апынуліся пад нямецкай акупацыяй, таму толькі пасьля вяртаньня з Расеі Вацлаў Іваноўскі змог атрымаць дакладную інфармацыю, прычым зь першых рук. Неўзабаве пасьля пераезду на радзіму ён аднавіў супрацоўніцтва з Антонам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім, якія кіравалі беларускай дзейнасьцю ў Вільні ад пачатку нямецкай акупацыі.

Для арыентаванага на Расею В. Іваноўскага гэта былі нечаканыя і, напэўна, ашаламляльныя зьвесткі. Аказваецца, Нямеччына як першая вялікая сусьветная дзяржава ўжо ў 1915 г. прызнала нацыянальную адметнасьць беларусаў і забясьпечыла роўнасьць іх нацыянальных правоў зь іншымі нацыянальнасьцямі акупаванага ўсходняга абшару. Таму акупацыйная адміністрацыя падтрымлівала разьвіцьцё беларускага школьніцтва, культурнага жыцьця, выдавецкай дзейнасьці і г.д., аднак не выяўляла зацікаўленьня ў справе беларускай дзяржаўнасьці і ў сувязі з гэтым супраціўлялася арганізацыі палітычнага жыцьця. Гэта тлумачылася ваеннымі плянамі нямецкага райху, які ў першай фазе вайны імкнуўся да анэксіі Літвы, Курляндыі і Беластоцка–Гарадзенскай акругі, але ня ставіў такіх самых прэтэнзіяў да большай часткі акупаваных беларускіх абшараў. Гэтыя землі пасьля меркаванага ўкладаньня мірнай дамовы плянавалася вярнуць да Расеі. Нямецкі ўрад, з увагі на свае эканамічныя інтарэсы ў Расеі, не імкнуўся да такога глыбокага падзелу гэтай дзяржавы.

Нямецкая палітыка прынцыпова не зьмянілася і ў 1918 г. Цяпер яе вызначала Бе-

[28] Cennik szczepów owocowych Wacława Iwanowskiego w Bojarach… S. 4.

расьцейская мірная дамова, у якой не было ніякіх палажэньняў што да беларускага пытаньня. Таму, займаючы Беларусь аж да Дзьвіны і Дняпра, немцы па–ранейшаму трактавалі яе як расейскую тэрыторыю і пэўны заклад пад ваенныя кантрыбуцыі, выплачваць якія абавязалася савецкая Расея. Паколькі ўсьлед за выплатай кантрыбуцыі гэтыя землі меліся адысьці да Расеі, нямецкі ўрад не цікавіўся праблемай беларускай дзяржаўнасьці. Аднак, з другога боку, нямецкія вайсковыя акупацыйныя мясцовыя ўлады ня толькі не супраціўляліся дзейнасьці беларускіх палітычных груповак, але і выразна іх падтрымлівалі.

Пры такім стане рэчаў пасьля таго, як Менск пакінулі бальшавіцкія ўлады, 19 лютага з падпольля выйшаў склікаены Радай Усебеларускага зьезду краёвы выканаўчы камітэт на чале зь Язэпам Варонкам і абвясьціў сябе часовым урадам (Народным сакратарыятам) на Беларусі. 9 сакавіка камітэт выдае ўстаўную грамату, у якой абвяшчаецца стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі, усё яшчэ зразуметай як частка агульнарасейскай фэдэрацыі, і акрэсьлівае асноўныя прынцыпы яе канстытуцыі, сярод якіх — скасаваньне прыватнай уласнасьці на зямлю і перадача яе тым, хто на ёй працуе. 18 сакавіка Рада Ўсебеларускага зьезду абвясьціла сябе Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, у яе склад уваходзілі прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў. Нарэшце, 25 сакавіка Рада БНР выдае чарговую ўстаўную грамату, якая абвяшчае Беларусь незалежнай і вольнай дзяржавай і скідае “апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары”.

Акт незалежнасьці ад 25 сакавіка адлюстроўваў надзеі на прызнаньне Беларускай Народнай Рэспублікі ўрадамі Нямеччыны і іншых краін. Але і гэты крок не зьмяніў афіцыйнай пазыцыі райху. У адказ на ноту Народнага сакратарыяту канцлер Георг Гертлінг заявіў, што Бэрлін трактуе Беларусь як частку савецкай Расеі і, у адпаведнасьці зь Берасьцейскай дамовай, ня можа прызнаць беларускую дзяржаву бяз згоды ленінскага ўраду. Рада БНР 25 красавіка даслала кайзэру Вільгельму II тэлеграму з падзякай за вызваленьне Беларусі ад чужога прыгнёту і просьбай падтрымаць імкненьні Рады да дзяржаўнай незалежнасьці і непадзельнасьці краю ў саюзе зь нямецкім райхам. Адказу не было. Не далі вынікаў і наступныя захады ўраду БНР у гэтай справе[29].

Спробы будаўніцтва незалежнай Беларусі з апорай на Нямеччыну ўзбудзілі востры канфлікт у Радзе БНР і Народным сакратарыяце і паказалі, наколькі глыбокай была псыхалягічная залежнасьць многіх дзяячоў ад Расеі. 25 сакавіка рэзалюцыя аб незалежнасьці прайшла толькі дзякуючы перавазе ў некалькі галасоў, што сьведчыла аб моцнай прарасейскай апазыцыі. Цікава, што нават цытаванае вышэй “ярмо” было царскага паходжаньня і таму не выражала стаўленьня да рэвалюцыйнай Расеі. Аднак асаблівы ўплыў на ўнутраны расклад мела ўзгаданая тэлеграма да Вільгельма II. Яна прывяла да распаду БСГ на некалькі драбнейшых, варожа настроеных адна супраць адной груповак (эсэраў, сацыялістаў–дэмакратаў і сацыялістаў–фэдэралістаў), а таксама — да адстаўкі часткі сяброў Рады БНР і Народнага сакратарыяту разам зь яго прэм’ерам Я. Варонкам[30].

Такую палітычную сытуацыю засьпеў В. Іваноўскі па вяртаньні на Бацькаўшчыну. Увязвацца ў яе ня надта хацелася, асабліва пасьля таго, як Я. Варонка падаў у адстаўку, а на яго месца прыйшоў кансэрватар Раман Скірмунт, зь якім В. Іваноўскі не хацеў супрацоўнічаць. Апрача таго, усё выразьней вымаўлёўвалася ваенная катастрофа Нямеччыны, а ставіць на пройгрышную карту, ён лічыў, няма сэнсу і шкодна для будучай працы. Таму В. Іваноўскі часта наяжджаў у Вільню, дзе разам з Антонам Луцкевічам яны абмяркоўвалі пэрспэктывы дзейнасьці пасьля блізкага прыходу бальшавікоў.

Неўзабаве жыцьцё пацьвердзіла гэтыя прадбачаньні, ды нават хутчэй, чым нехта мог бы меркаваць. Ужо 27 жніўня пад уплывам пагаршэньня ваеннай і эканамічнай сытуа-

[29] Туронак. Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 510—677 гэтага выданьня. — *Рэд.*

[30] Зьмянілася канфігурацыя Народнага сакратарыяту, але сам кабінэт Я. Варонкі пратрываў да 9 ліпеня 1918 г. — *А.С.*

цыі нямецкі ўрад уклаў з Расеяй дадатковую дамову да Берасьцейскага трактату, якая прадугледжвала вывад нямецкіх войскаў зь Беларусі да лініі Бярэзіны, а 16 верасьня ў Вільні было падпісанае двухбаковае выканаўчае пагадненьне. У органах Беларускай Народнай Рэспублікі гэта выклікала занепакоенасьць, бо нямецкая акупацыя, не было сумневу, канчалася, а разам зь ёю і існаваньне гэтай дзяржавы. Таму ў верасьні пайшоў у адстаўку ўрад Р. Скірмунта[31], а празь некалькі тыдняў — таксама і наступны кабінэт Івана Серады.

Увосені 1918 г. В. Іваноўскі выехаў у Менск, дзе заняўся арганізацыяй пэдагагічнага інстытуту[32] і далучыўся да дзейнасьці Беларускай сацыял–дэмакратычнай партыі. Неўзабаве ён быў прызначаны міністрам асьветы ў кабінэце міністраў БНР, сфармаваным у кастрычніку Антонам Луцкевічам[33]. Гэты кабінэт складаўся з прадстаўнікоў левых партыяў — сацыял–дэмакратаў і эсэраў, а яго стварэньне ўва ўмовах распачатай эвакуацыі нямецкіх войскаў магло значыць толькі адно: імкненьне сфармаваць разам з камуністамі зь Белнацкому кааліцыйны ўрад Беларускай савецкай рэспублікі. Гэта была вельмі своечасовая ініцыятыва, бо ўсе ранейшыя спробы З. Жылуновіча стварыць гэтую рэспубліку пасьлядоўна ігнараваліся ня толькі савецкімі цэнтральнымі, але і мясцовымі ўладамі. Прычыну гэтага вытлумачыў Вільгельм Кнорын, сакратар партыі бальшавікоў у Смаленску: “Мы лічым, што беларусы — не народ, а тыя этнаграфічныя асаблівасьці, якія адрозьніваюць іх ад астатніх расейцаў, павінны быць выкараненыя”[34].

Ідэя, да якой В. Іваноўскі з А. Луцкевічам прыйшлі ў Вільні, а якую, магчыма, яшчэ абмяркоўвалі з З. Жылуновічам у Петрагардзе, была надзвычай сьмелай і рызыкоўнай, але ў тагачасных умовах магла адыграць пэўную ролю для выратаваньня беларускай дзяржаўнасьці. Яна павінна была, па–першае, паўплываць на пазыцыю Масквы ў справе стварэньня Беларускай савецкай рэспублікі як законнай пераемніцы Беларускай Народнай Рэспублікі, а па–другое, ўратаваць здабыткі БНР у галіне асьветы і культуры ад разбуральнага юру смаленскіх дзеячоў накшталт В. Кнорына.

У сярэдзіне лістапада 1918 г. А. Луцкевіч выехаў у Маскву. Паводле беларускага гісторыка І. Ігнаценкі, выезд адбыўся на запрашэньне савецкага ўраду, але перамовы засталіся незавершанымі — было толькі пастаноўлена, што яны працягнуцца ў Менску пасьля выхаду нямецкіх войскаў. Была дасягнутая дамоўленасьць, што ў Менску застануцца сацыял–дэмакратычныя чальцы прэзыдыюму Рады і ўраду БНР, зь якімі будуць завершаныя распачатыя ў Маскве перамовы. Інфармацыя пра гэта была зьмешчаная 8 сьнежня ў часопісе “Жизнь Национальностей” — органе сталінскага народнага камісарыяту ў справах нацыянальнасьцяў разам з пазытыўнай ацэнкай А. Луцкевіча[35]. Ці то была пастка, падрыхтаваная савецкімі ўладамі для арышту буйных прадстаўнікоў Рады і ўраду БНР, ці то сапраўднае прызнаньне гэтых органаў партнэрамі для вырашэньня лёсу Беларусі?

Неўзабаве ўсё высьветлілася. 10 сьнежня 1918 г. немцы перадалі Менск савецкім уладам, якія, аднак, ані перад гэтым, ані ў найбліжэйшыя дні не абвесьцілі Беларускай ССР і не ўтварылі яе ўраду. Затое 8 сьнежня была абвешчаная Літоўская ССР, хаця Чырвоная Армія была яшчэ далёка ад Вільні. Што хавалася за гэтымі рашэньнямі? Ужо назаўтра пасьля ўваходу ў Менск савецкія ўлады пачалі арганізоўваць шматлікія сходы, на якіх

---

[31] Кабінэт Р. Скірмунта пратрываў да 22 ліпеня 1918 г. На зьмену яму прыйшоў урад І. Серады. — *А.С.*

[32] У верасьні 1918 г. зь Яраслаўля вярнуўся Менскі настаўніцкі інстытут. Яго далейшую дзейнасьць фінансавалі ўрад БНР і акупацыйныя ўлады. Вялася падрыхтоўка да пераўтварэньня яго ў вышэйшую навучальную ўстанову, аднак адкрыцьцё Менскага беларускага пэдагагічнага інстытуту адбылося ўжо пры бальшавіках — у канцы 1918 г. — *А.С.*

[33] Сидоревич А. Антон Луцкевич // Нёман. 1990. № 7.

[34] Кнорин В.Г. Избранные статьи и речи. Минск, 1990. С. 33.

[35] Чырвоная змена. 1989. 22 чэрвеня; Запісы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Т. І. Мюнхэн, 1962. С. 160—165.

жыхары беларускіх земляў “выказваліся” за далучэньне іх да Літвы[36]. Уся гэтая акцыя была інсьпіраваная Масквой і сьведчыла пра тое, што яе болей здавальняе ідэя савецкай Літвы, якая ахапіла б заходнія абшары Беларусі, чым беларуская рэспубліка. У такім інтэрнацыянальным катле небясьпечнае беларускае пытаньне губляла б усялякае значэньне. Апрача таго, усходнія беларускія землі маглі б застацца ў межах Расеі.

Пры такіх абставінах прынятае ў канцы сьнежня рашэньне кіраўніцтва бальшавіцкай партыі аб стварэньні Беларускай савецкай рэспублікі патыхала сэнсацыяй. Чаму так раптоўна і крута яно зьмяніла свае пазыцыі? Справа ў тым, што пасьля нямецкага адступленьня ў Менску засталіся толькі некаторыя прадстаўнікі ўладаў БНР, а сам урад на чале з А. Луцкевічам перабраўся ў Горадню. Тут кіраўніцтва БНР распачало дыпляматычную кампанію пратэсту супраць бальшавіцкай акупацыі Беларусі, а паколькі БССР не была абвешчана і ня быў створаны яе ўрад, дык пратэсты гэтыя з гледзішча крытэраў міжнароднага права былі абгрунтаваныя.

Такой сытуацыі Ленін не хацеў і, мабыць, не прадбачыў. Таму памылку пачалі выпраўляць, і Сталін выканаў гэта ўласьцівымі яму мэтадамі. Літаральна за колькі дзён зрабілі неабходную падрыхтоўку: арганізавалі “волевыяўленьне народу”, пераканалі кіраўнікоў Заходняй вобласьці, апрацавалі маніфэст і вызначылі склад ураду на чале з З. Жылуновічам. Цырымонія адбылася ў Смаленску, пасьля чаго 1 студзеня 1919 г. быў апублікаваны маніфэст[36], у якім абвяшчалася стварэньне незалежнай савецкай Беларусі. Была прынятая і рэзалюцыя аб тэрыторыі рэспублікі, якая распасьціралася на Менскую, Гарадзенскую, Магілёўскую, Віцебскую і Смаленскую губэрні. Цяпер нястрашныя былі пратэсты БНР — сьвет мог пераканацца, што бальшавіцкая акупацыя Беларусі — ня больш як “выдумка нацыяналістычнай контрарэвалюцыі”.

Прапагандысцкі характар гэтых захадаў выявіўся неўзабаве пасьля прыбыцьця З. Жылуновіча зь яго ўрадам з Смаленску ў Менск. Ужо 16 студзеня цэнтральны камітэт расейскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) з удзелам Леніна прыняў рэзалюцыю наконт адлучэньня ад БССР Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губэрняў і ўлучэньня іх у Расею. Дзьве засталыя губэрні — Менская і Гарадзенская — павінны былі злучыцца зь Літвой і ўтварыць новую адміністрацыйную структуру — Літоўска–беларускую савецкую рэспубліку. Гэта азначала ліквідацыю самастойнай БССР.

Паўстае пытаньне, што вымусіла Леніна спачатку стварыць гэтую рэспубліку ды амаль адначасна яе зьліквідаваць? Справа ў тым, што, апрача вырашэньня замежнапалітычных задачаў, гэтыя захады давалі савецкім уладам і іншую выгаду. Цяпер, калі БССР ужо “існавала”, можна было ажыцьцявіць ленінскі плян яе ліквідацыі рукамі “сувэрэнных” рэспубліканскіх органаў, ад імя вольнага беларускага народу. Ад імя гэтага народу зачыняліся беларускія школы, ліквідаваліся ўсе беларускія газэты і часопісы, выцясьнялася з грамадзкага ўжытку беларуская мова[37].

У такой атмасфэры засталыя ў Менску прадстаўнікі ўраду (Вацлаў Іваноўскі) і Рады БНР (Язэп Лёсік, Аляксандар Уласаў ды іншыя) у студзені 1919 г. распачалі перамовы зь Зьмітром Жылуновічам, тагачасным прэм’ерам ураду савецкай Беларусі. Пра гэтыя перамовы мала што вядома, але можна меркаваць, што ніводзін бок не разьлічваў на іх дадатны вынік. І адны, і другія, напэўна, пачуваліся падманутымі і расчараванымі палітыкай Леніна і смаленскіх інтэрнацыяналістаў, якія адно пад ціскам Сталіна гатовыя былі прызнаць неабходнасьць стварэньня БССР, а цяпер зацята яе ліквідавалі[38]. З. Жы-

[36] Круталевич В.А. Рождение Белорусской Советской Республики. Минск, 1975. С. 121—122.

[37] Варшавское Слово. 1920. 2 мая.

[38] “Смаленскія інтэрнацыяналісты” нечакана для Масквы выявіліся абаронцамі савецкай Беларусі і яе тэрытарыяльнай цэласнасьці. Разыходжаньне паміж імі і беларускімі бальшавікамі ляжала амаль выключна ў плашчыні нацыянальна–культурнай палітыкі. Спатрэбіўся прыезд у Менск Я. Сьвярдлова, каб прымусіць А. Мясьнікова і кампанію згадзіцца з рашэньнямі ЦК РКП(б). — *А.С.*

луновіч, з свайго боку, разам з групай беларускіх камуністаў супрацiўляўся гэтай палітыцы, імкнуўся захаваць самастойнасьць і тэрытарыяльную суцэльнасьць рэспублікі і дамагаўся, каб прадстаўнікоў найвышэйшых органаў БНР далучылі да ўраду савецкай Беларусі, бо набліжаўся першы ўсебеларускі зьезд саветаў (2—3 лютага 1919 г.), які павінен быў зацьвердзіць пэрсанальныя рашэньні.

Гэта прывяло да разгрому З. Жылуновіча і яго групы. Пазьней, у трыццатыя гады, гэтыя яго памкненьні трактавалі як змову з нацыяналістамі ды спробу правесьці іх у бальшавіцкае асяродзьдзе, апроч таго, З. Жылуновіча вінавацілі ў тым, што ён быў шпіёнам польскай выведкі і дзеяў, каб далучыць Беларусь да Польшчы[39].

Іваноўскі пакуль заставаўся ў Менску. Умовы для працы тут былі цяжкія, але не безнадзейныя. Наваўтвораны ўрад Беларуска–літоўскай савецкай рэспублікі, у якім не было ніводнага беларуса[40], хоць, праўда, і змагаўся зь незалежніцкімі памкненьнямі, але прадугледжваў разьвіцьцё школьніцтва і кнігавыданьня на ўсіх мовах краю, у тым ліку — і на беларускай, плянаваў адкрыць у Менску ўнівэрсытэт. Пакуль жа гэтую ролю выконваў Пэдагагічны інстытут, перайменаваны цяпер у Пэдагагічны інстытут народнай асьветы, які дзейнічаў да восені 1918 г.[41].

Такім чынам, пасьля кароткага перапынку В. Іваноўскі вярнуўся да працы ў інстытуце, апрача таго, як некалі ў Пецярбургу і Вільні, заняўся выданьнем школьных падручнікаў і мастацкай літаратуры. На гэты раз ён працаваў у выдавецкім аддзеле менскага Губэрскага камісарыяту асьветы як сябра рэдакцыйнай калегіі[42]. Незадоўга да ўваходу ў Вільню польскіх войскаў (21 красавіка 1919 г.) былі выдадзеныя два падручнікі і чатыры драматычныя творы[43]. Іваноўскі ў тую пару часта выяжджаў у Вільню, дзе друкаваліся падрыхтаваныя ў Менску кнігі. 31 сакавіка ён стаў сябрам віленскага Беларускага навуковага таварыства, а таксама завяршыў працу над першым унівэрсытэцкім падручнікам неарганічнай хіміі на беларускай мове[44].

Аднак пэдагагічная і выдавецкая дзейнасьць Вацлава Іваноўскага ўва ўмовах Літбелу доўжылася вельмі нядоўга. 15 траўня 1919 г. ён быў арыштаваны і перавезены ў смаленскую турму. З адседкі Іваноўскага ў турме ў памяці яго сям'і захавалася паняцьце “главхвост”. Яно азначала рыбу, якой кармілі вязьняў, і складалася з галавы і хваста — рэшту зьядала начальства.

У верасьні 1919 г. Вацлава Іваноўскага вызвалілі з турмы ў рамках дамовы з польскім урадам аб абмене арыштаваных палітычных дзеячоў і накіравалі ў Варшаву, дзе яго брат Юры быў міністрам працы і сацыяльнага забесьпячэньня ўва ўрадзе Падэрэўскага[45]. Тут ён мог лёгка атайбавацца і далей дзеяць у беларускім руху — бо ў Варшаве тады існавала ўзначаленае Лявонам Дубейкаўскім прадстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі, субсыдыяванае міністэрствам Юр'я[46]. Вацлаў, аднак, не скарыстаў з гэтай магчымасьці і

---

[39] Цанава Л. Всенародная партизанская борьба в Белоруссии против фашистских захватчиков. Т. II. Минск, 1951. С. 780—784.

[40] У склад ураду ССРЛіБ уваходзіў беларус І. Савіцкі; акрамя таго, невядомая нацыянальная прыналежнасьць І. Пузырова. — *А.С.*

[41] Ігнатоўскі У. Вялікі Кастрычнік на Беларусі // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Менск, 1924. С. 207.

[42] Звезда. 1919. 16 мая.

[43] Гэта былі кн.: “Родны край” Л. Чарняўскай, “Наша крыніца” Я. Лёсіка, “Раскіданае гняздо” Я. Купалы, “Апошняе спатканьне” У. Галубка, а таксама “Страхі жыцьця” і “Каліcь” Ф. Аляхновіча.

[44] Гадавік Беларускага навуковага таварыства. Т. І. Вільня, 1933; Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры… С. 205.

[45] Звон. 1919. 25 жніўня; Politechnika Warszawska 1915—1925. Księga pamiątkowa pod red. prof. Leona Staniewicza. Warszawa, 1925. S. 430—432.

[46] Вітан К. Тамсама, с. 10.

ў канцы 1919 г. вярнуўся ў Менск, верачы, што зробіць канкрэтны ўнёсак у пабудову Беларусі.

Тут ён засьпеў новую палітычную сытуацыю. 8 верасьня 1919 г., калі яшчэ Іваноўскі сядзеў у смаленскай турме, польскія войскі занялі Менск. Зноў загучэлі абяцанкі аб свабодзе, роўнасьці і братэрстве. Шырока распаўсюджвалася віленская адозва Пілсудзкага “Да насельніцтва былога Вялікага Княства Літоўскага”, якая абяцала свабоднае вырашэньне ім нацыянальных і рэлігійных пытаньняў. Ён запэўніваў, што Польшча і Беларусь будуць будаваць стасункі, “як роўны з роўным”. Неўзабаве пасьля ўваходу ў Менск польскія вайсковыя ўлады выдалі дазвол на стварэньне часовага Беларускага нацыянальнага камітэту пад кіраўніцтвам правага эсэра Кузьмы Цярэшчанкі ды на выданьне газэты “Звон”. Газэта друкавалася на польскія грошы[47], няма дзіва, што “адлюстроўвала” яна такія настроі насельніцтва, якія хацела бачыць новая ўлада[48].

18 верасьня ў Менск прыбыў Ю. Пілсудзкі, які падчас сустрэчы з прадстаўнікамі насельніцтва Меншчыны запэўніў, “што зямлі гэтай нічога не навяжуць сілком, што зямля гэтая вольны і свабодны свой голас сярод іншых земляў падыме, што зямля гэтая сама вырашыць, як ёй жыць, якім правам кіравацца”. “Вас, мае панове, — казаў Пілсудзкі, — найбліжэйшым часам паклічуць да таго, каб перш за ўсё вы самі пачалі кіраваць у органах самакіраваньня. Потым настане тая часіна, калі вы зможаце свабодна сказаць, як будаваць *вашу дзяржаву* (вылучана аўтарам. — *Ю.Т.*)”[49].

Гэтыя і ранейшыя запэўніваньні Пілсудзкага выклікалі сярод многіх беларускіх дзячоў сапраўдную эўфарыю. Яны пасьля сумнага досьведу з бальшавікамі цешылі сябе ілюзіяй, што незалежнасьць сваёй краіны можна атрымаць з рук Польшчы. У склад дэлегацыі ад камітэту К. Цярэшчанкі на спатканьне зь Ю. Пілсудзкім у будынку Шляхецкага сходу згадзіліся ўвайсьці нават эсэры, найменш прыхільныя да палітычнага супрацоўніцтва з Польшчай. Зьвяртаючыся да Пілсудзкага, ад імя гэтай дэлегацыі выступіў Аляксандар Прушынскі:

> Вітаю вас ад імя нашых беларускіх дэлегацыяў, прадстаўляючых тутака беларускае насяленьне, выслаўляю гарачую падзяку за звальненьне Менску й Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імпэрыялізму, які на гэты раз прыбраўся ў бальшавіцкую вопратку. Але плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілёве, маўчыць, бо забаронены, хаўтурны голас зьмшэлых званіцаў Смаленску.
>
> Мы верым і спадзяемся, што, разам з вольнымі Менскам, Вільняй і сівой Гародняй, вольнымі й шчаслівымі будуць у вольнай і незалежнай Беларускай рэспубліцы нашыя адвечныя астрогі на рубяжох Масквы — Віцебск, Магілёў і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяемся, у гэта мы верым, а гэтымі верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, якога слаўнаму прадстаўніку гатовы мы сказаць на Меншчыне ня толькі наша сягоньняшняе “дзякуй”, але й заўсёды: “Здароў будзь, прыходзь да нас, наш госьцю мілы, суседзе дарагі!”[50]

Аднак Пілсудзкі не сьпяшаўся рэалізоўваць сваіх намераў, а Вацлаў, кіруючыся прышчэпленым у сям’і рацыяналізмам, ня верыў, што незалежнасьць можна атрымаць задарма. Таму ён ня цешыў сябе ілюзіяй, асабліва назіраючы выдаленьне зь мясцовай адміністрацыі беларусаў за сымпатыі бальшавікам і абсаджваньне яе палякамі, а таксама ўста-

[47] Відаць, польскія ўлады кепска фінансавалі газэту, бо рэдакцыя зьвярталася з просьбаю пра грашовую субсыдыю да ўраду БНР. Гл.: Архівы БНР. Т. I. Кн. 1. С. 481; Купала Я. Поўны збор твораў. Т. 9. Кн. 1. С. 523. — *А.С.*

[48] Krótki zarys zagadnienia białoruskiego, opr. Sztab Generalny — Oddział II. Warszawa, 1928. S. 84; Ігнатоўскі У. Тамсама, с. 207—209.

[49] Piłsudski J. Pisma–Mowy–Rozkazy. T. IV. Warszawa, 1933. S. 94—96.

[50] Krótki zarys... S. 85.

наўленьне над усім акупаваным прасьцягам Цывільнай управы ўсходніх земляў. Перш за ўсё ён імкнуўся выратаваць Пэдагагічны інстытут, будынак якога, мэблю і лябараторыю забрала армія, і чакаў разьвіцьця падзеяў[51].

Затое гэтага не чакала Масква. Наступ польскіх войскаў — гэта, канечне, пагроза, але яшчэ горшая пагроза — фэдэрацыйныя намінкі Пілсудзкага, якія знайшлі дадатны водгук сярод пераважнай часткі беларускіх дзяячоў, расчараваных палітыкай савецкіх уладаў. Гэтыя ўлады разумелі, што ўдалае ажыцьцяўленьне польскай канцэпцыі аднаўленьня гістарычнай фэдэрацыі зь Літвою і Беларусьсю паспрыяла б далучэньню да яе Украіны і прывяло б да ўтварэньня пад эгідай Польшчы вялікай канфэдэрацыі народаў Цэнтральна–Ўсходняй Эўропы, здольнай процістаяць расейскаму і нямецкаму імпэрыялізму. Такая пэрспэктыва супярэчыла інтарэсам Расеі, таму яна адразу ж перайшла да контрагульні.

З гэтай мэтай 17 ліпеня 1919 г. лінію польска–савецкага фронту перайшоў Юліян Мархлеўскі, якога Ленін упаўнаважыў весьці мірныя перамовы. Ня могучы спыніць польскі наступ сілай, Масква загадзя рыхтавалася купіць мір цаною тэрыторыі Літоўска–беларускай рэспублікі. Яе зьліквідавалі акурат таму, што адыход у нябыт гэтай “сувэрэннай дзяржавы” дазваляў савецкім уладам гандляваць яе землямі як абшарамі зь неакрэсьленым дзяржаўна–юрыдычным статусам. Ужо пад канец ліпеня, падчас перамоў у Белавежы, Ю. Мархлеўскі заявіў: “Ленін выразна сказаў: калі палякі хочуць правесьці ў Літве і Беларусі плебісцыт, мы ня будзем мяшацца ў тое, як ён будзе праведзены, мы ня будзем таксама мяшацца ў долю Беларусі”[52]. Гэта была ня нейкая адзінкавая тактычная ініцыятыва. Паводле сьведчаньняў удзельнікаў гэтых перамоў, увосень 1919 г. Ю. Мархлеўскі надалей паведамляў польскі бок пра незацікаўленасьць Леніна Беларусяй, пра тое, што Польшча атрымае такія тэрыторыі, якія сама пажадае, і, нарэшце, прапанаваў ленінскае мірнае пагадненьне зь вечнай мяжой на Дзьвіне, Уле і Бярэзіне[53]. Для Іваноўскага гэта быў страшэнны ўдар, які нявечыў усю яго дагэтулешнюю палітычную філязофію. Пазыцыя Леніна азначала падзел Беларусі, а гэта перакрэсьлівала пэрспэктыву пабудовы дзяржавы на ўсім этнічным абшары. Для Беларусі гэта быў сьмяротны прысуд, якога ў вачох Іваноўскага не апраўдвала ленінская тактыка абароны Расеі і рэвалюцыі. Бо ніводная з разьдзертых частак краіны з эканамічнага, дэмаграфічнага і нацыянальнага гледзішча не магла стаць суб’ектам фэдэрацыі з Расеяй ці з Польшчай, нават калі б гэтая апошняя была “за”. Кожнай зь іх у пэрспэктыве давялося б асымілявацца і расплыцца ў абдымках мацнейшых суседзяў. Таму захаваньне суцэльнасьці і непадзельнасьці краіны было найважнейшым пытаньнем, зыходным пунктам усёй беларускай палітыкі.

Тым часам Пілсудзкі затрымаў свае войскі на Бярэзіне і не сьпяшаўся ўкласьці мірнае пагадненьне на ўмовах, што прапаноўваў Ленін. Тэарэтычна магчымасьць авалодаць усёй Беларусяй да межаў Рэчы Паспалітай 1772 г. не была яшчэ цалкам выключана, і тады магчымая фэдэрацыя выглядала б больш рэалістычна. Таму Масква, праводзячы мірныя перамовы з Польшчай, якія давалі магчымасьць расправіцца з айчыннай контрарэвалюцыяй, адначасова рабіла ўсё, каб перакрэсьліць польска–беларускае паразуменьне.

Гэтаму асабліва спрыялі кантрыбуцыі і рабункі, што чыніліся польскімі войскамі над мясцовым насельніцтвам, вяртаньне памешчыкам сканфіскаваных маёнткаў і эгаістычная дзейнасьць польскай адміністрацыі ў галіне нацыянальнай палітыкі[54]. Гэта дыскрэдытавала афіцыйныя дэклярацыі і выклікала незадаволенасьць і супраціў насельніцтва. Важную ролю адыгралі ў гэтым беларускія эсэры, якія ўвосені 1919 г. уклалі з савецкімі ўладамі ў Смаленску дамову аб супрацоўніцтве, на падставе якой атрымлівалі

[51] Мэмарыял В. Іваноўскага ад 16 сакавіка 1920. Архіў новых актаў. Акты Л. Васілеўскага. Справа 45. С. 125.

[52] Kowalski M. A. (oprac) Rok 1919 // Przegląd Tygodniowy. 26.04.1987.

[53] Тамсама. 03.05.1987.

[54] Мэмарыял В. Іваноўскага ад 16 сакавіка 1920.

матэрыяльную падтрымку і разгарнулі антыпольскую агітацыю і партызанскую барацьбу[55]. У адказ гэта выклікала рэпрэсіі з польскага боку. Паводле ацэнкі II аддзелу Генэральнага штабу Войска польскага, "...першапачатковы энтузіязм [насельніцтва] згасаў, пераходзіў у незадаволенасьць, якая нарэшце перарадзілася ў нянавісьць да ўсяго польскага"[56]. Запушчанае кола прычынаў і наступстваў круцілася ўсё барджджэй, і ніщто не паказвала на магчымасьць яго спыніць.

На падставе стаўленьня да Польшчы 13 сьнежня 1919 г. здарыўся раскол у Радзе БНР. Адна яе частка, дзе пераважалі эсэры, прызнала немагчымым супрацоўніцтва з Польшчай і пасьля кароткатэрміновага арышту перабралася ў Коўну[57]. Другая ж частка Рады не пераставала верыць у магчымасьць паразуменьня з Польшчай[58] і ўтварыла г.зв. Найвышэйшую раду[59], якая, хоць і не прызнаная польскімі ўладамі, засталася ў Менску. Такім чынам, сярод беларускіх дзяячоў паўстала канфліктная сытуацыя, расьлі ўзаемныя абвінавачаньні і нараканьні ў згодніцтве перад Польшчай ці Літвой, што ўрэшце канчаткова спаралізавала і без таго невялікія сілы і дэвальвавала іх вагу ў вачох польскага ўраду.

В. Іваноўскі ня быў сябрам Рады БНР, а пасьля расколу не ўваходзіў у склад Найвышэйшай рады, за што часам яго асуджалі. Таму яму не давялося ўдзельнічаць у палітычных спрэчках, засяроджваючы пакуль што ўсю ўвагу на разьвіцьці арганічнай працы, якая прыносіла адчувальную карысьць беларускай справе незалежна ад яе партыйнай афарбоўкі і прымалася ўсімі дзяячамі. Асноўным абсягам яго дзейнасьці быў Пэдагагічны інстытут і часовы Беларускі нацыянальны камітэт, вакол якога гуртаваліся прадстаўнікі ўсіх палітычных партыяў, настаўнікі, літаратары, артысты, гаспадарчыя дзяячы ды іншыя.

Асаблівую ўвагу ён зьвяртаў на арганізацыю школьніцтва. У першую чаргу, пераадольваючы вялікія фінансавыя, кадравыя цяжкасьці, а таксама праблемы з памяшканьнямі, ён паставіў на ногі Беларускі пэдагагічны інстытут у Менску, рэктарам якога ён быў. Ён пашырыў склад выкладнікаў, прыцягваючы да супрацы выдатных мовазнаўцаў — Я. Карскага і Б. Тарашкевіча, гісторыка Ігнатоўскага і іншых.

Інстытут заклаў падмурак для арганізацыі пачатковага і сярэдняга школьніцтва, настаўніцкіх курсаў, а таксама для створанай у жніўні 1919 г. Беларускай цэнтральнай школьнай рады, якая праз сваіх інструктараў ажыцьцяўляла нагляд за разьвіцьцём школьнай справы ў правінцыі. У рамках Рады быў арганізаваны выдавецкі аддзел, які адразу ж распачаў выданьне школьных падручнікаў і мастацкай літаратуры. Пра вынікі гэтай працы сьведчаць факты: калі на пачатку 1919/1920 навучальнага году ў Менскай акрузе было ўсяго толькі 8 беларускіх пачатковых школаў, дык пад канец таго году іх колькасьць павялічылася да 233, апрача таго былі створаныя дзьве гімназіі — у Менску і Слуцку[60]. Агульная колькасьць вучняў гэтых школаў дасягнула 12947[61]. У Менску паў-

[55] Krótki zarys... S. 89.

[56] Тамсама, с. 89.

[57] Гісторыя ўзьнікненьня дзьвюх Радаў БНР значна складанейшая. Тут жа трэба зацеміць, што: 1) арыштаваная была ня ўся Народная рада (старшыня П. Крачэўскі), а некаторыя яе дзяячы; 2) першапачаткова Народная рада знайшла прытулак у Рызе, а ў лістападзе 1920 г. пераехала ў Коўну. — *А.С.*

[58] Гэтага нельга сказаць пра ўсю Раду БНР (так называлася тая яе частка, якая засталася без эсэраў і сацыялістаў–фэдэралістаў). Відавочна было адно: калі Польшча прызнае незалежнасьць БНР, яе прызнае і Антанта. Што ж датычыць дзяячоў Народнай рады, дык яны пайшлі па сьцежцы, пратаптанай А. Луцкевічам увосень 1918 г. Тады ён вёў перамовы з бальшавіцкім дзяячом Х. Ракоўскім і пераканаўся, што бальшавікі не прызнаюць незалежнасьці Беларусі. Што і пацьвердзілі падзеі 1920 г. — *А.С.*

[59] У сувязі з тым, што Рада БНР на чале зь Я. Лёсікам не магла ўва ўмовах савецка–польскай вайны апэратыўна зьбірацца на свае паседжаньні, яна вылучыла з свайго складу пяціасабовую Найвышэйшую Раду на чале з І. Серадой, якой перадала большую частку сваіх паўнамоцтваў. — *А.С.*

[60] Слуцкая беларуская гімназія была заснаваная ў ліпені 1917 г., а Менская — 15 верасьня 1919 г. — *А.С.*

[61] Публічная бібліятэка ў Варшаве, рукапісны аддз., Akta ZCZW, akc. 1686. Агульная справаздача камісарыяту м. Менску.

стаў сталы беларускі тэатар пад кіраўніцтвам выдатнага драматурга Францішка Аляховіча[62] і хор пад кіраўніцтвам Уладзімера Тэраўскага, а ў правінцыі — шматлікія мастацкія калектывы і культурна–асьветніцкія гурткі[63].

В. Іваноўскі выяўляў нязьменны клопат і вынаходлівасьць у выбіваньні субсыдыяў ад польскіх уладаў на школьніцтва, выдавецкую і культурную дзейнасьць. Дзеля гэтага ён выкарыстоўваў асабістае знаёмства з начальнікам Менскай акругі Ўладзіславам Рачкевічам. У траўні 1920 г. Іваноўскі распачаў выданьне літаратурнага тыднёвіка "Рунь", запрасіўшы на пасаду рэдактара свайго даўняга супрацоўніка — Івана Луцэвіча (Я. Купалу). Супольна з К. Цярэшчанкам — шэфам часовага БНК — ён працаваў над арганізацыяй Беларускага цэнтральнага каапэратыўнага саюзу, які ў сярэдзіне 1920 г. валодаў ужо сеткай з 350 каапэратываў на Меншчыне і ў суседніх раёнах Віленшчыны[64].

Гэта былі значныя дасягненьні, якія ў галіне асьветы і культуры перавышалі беларускія заваёвы на Меншчыне падчас нямецкай акупацыі. На перасвараных міжсобку дзеячоў, здольных часьцей за ўсё толькі выстаўляць палітычныя лёзунгі, гэта рабіла вялікае ўражаньне, і В. Іваноўскі як іх *spiritus movens* вырастаў да ролі вядучага дзяяча. Таму, як паведамляў 5 лютага 1920 г. шэф палітычнага аддзелу камандаваньня літоўска–беларускага фронту Мар'ян Касьцялкоўскі, усе беларускія палітычныя партыі, з Найвышэйшай радай улучна, "канчаткова" перадалі В. Іваноўскаму мандат на перамовы з польскімі ўладамі і такім чынам узалежнілі свае стасункі з Польшчай ад яго палітыкі[65]. Гэта быў ня проста выраз усеагульнага прызнаньня, але і неабмежаваны палітычны крэдыт, выдадзены Іваноўскаму. Напэўна, гэтая акалічнасьць прывяла ў канцы лютага да адстаўкі А. Луцкевіча і яго вяртаньня ў Вільню[66]. Ува ўзаемадачыненьнях паміж імі зноў запанавала непрыязнасьць[67].

З гэтага часу В. Іваноўскі выступае як афіцыйны прадстаўнік Беларусі. У першыя дні лютага 1920 г. ён спаткаўся зь Ю. Пілсудзкім у Вільні, там, паводле ляканічнага паведамленьня ў друку, абмяркоўваў шмат якія важныя для Беларусі справы, між іншым, праблемы арганізацыі войска[68]. Але пра што гаварылі два спадары ня "між іншым", што было асноўнай мэтай іх сустрэчы? Вось жа, Ю. Пілсудзкі, які яшчэ 1 лютага дазволіў сабе сказаць, што ён праціўнік саступкам беларускай фікцыі, цягам сустрэчы з В. Іва-

[62] Першы свой тэатар Ф. Аляховіч стварыў у Менску ў 1918 г. Не спрацаваўшыся з бальшавікамі, увесну 1919 г. ён вярнуўся ў Вільню. Увосень 1919 г. ён зноў прыехаў у Менск і заснаваў Беларускі народны тэатар. Адначасова зь ім у 1918 і 1919—1920 г. у Менску працаваў тэатар Першага таварыства беларускай драмы і камэдыі пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча, якому быў нададзены статус Беларускага дзяржаўнага тэатру і ў склад якога ўваходзіў хор У. Тэраўскага. Гл.: Архівы БНР. Т. I. Кн. 1. С. 189; Аляховіч Ф. Выбраныя творы. Менск: Беларускі кнігазбор, 2005. С. 11—12. — *А.С.*

[63] Турук Ф. Тамсама, с. 62.

[64] Тамсама.

[65] Публічная бібліятэка ў Варшаве, рукапісны аддз., Akta ZCZW, akc. 1687. Raport polityczny Kościałkowskiego z 05.02.1920.

[66] Сидоревич А. Тамсама, с. 132. — *Ю.Т.*

А. Луцкевіч падаў у адстаўку ў сувязі з тым, што ён быў практычна інтэрнаваны польскаю ўладаю ў Варшаве і ня мог выконваць функцыі кіраўніка ўраду БНР. Гл.: Архівы БНР. Т. I. Кн. 1. С. 688, 693, 694. — *А.С.*

[67] А. Луцкевіча найбольш турбавала пытаньне, цаною якіх саступак В. Іваноўскаму, А. Смолічу ды іншым дзеячам Найвышэйшай рады ўдалося пасьля ягонай адстаўкі дамагчыся ад палякаў субсыдыяў на беларускую адукацыю, культуру і г.д. (гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. С. 209). А тое, што Ю. Пілсудзкі прыняў В. Іваноўскага праз месяц пасьля студзеньскай (1920) сустрэчы з А. Луцкевічам, можа сьведчыць, што польскі ўрад прадумваў замену А. Луцкевічу, які неўзабаве быў інтэрнаваны і мусіў прасіць пра адстаўку. Вартае ўвагі і тое, што міністар замежных справаў Польшчы С. Патэк прызначыў Л. Васілеўскага старшынём камісіі для распрацоўкі праекту ўрэгуляваньня польска–беларускіх дачыненьняў і правядзеньня перамоў з прадстаўнікамі Беларусі назаўтра пасьля адстаўкі А. Луцкевіча. — *А.С.*

[68] Беларусь. 1920. 12 лютага.

ноўскім пагадзіўся на правядзеньне афіцыйнай польска–беларускай канфэрэнцыі для абмеркаваня палітычных ды іншых праблемаў. Аднак падрыхтоўку канфэрэнцыі ён даручыў не начальніку Цывільнай адміністрацыі усходніх земляў Ежаму Асмалоўскаму, а міністру замежных справаў Станіславу Патэку, што мела асаблівае значэньне. 1 сакавіка Патэк прызначыў Леана Васілеўскага старшынём камісіі для распрацоўкі праекту ўрэгуляваньня польска–беларускіх дачыненьняў і правядзеньня перамоў з прадстаўнікамі Беларусі[69].

Да перамоў рыхтаваўся і Вацлаў Іваноўскі. Ён разьлічваў атрымаць ад польскага ўраду субсыдыі для разьвіцьця школьніцтва, прэсы, выдавецкай дзейнасьці, дабіцца раўнапраўя беларускай і польскай моў, абмежаваньня свавольстваў польскай арміі і адміністрацыі і г.д. Усе вымогі ў гэтых сфэрах ён выклаў у “Мэмарыяле ў беларускай справе” і 16 сакавіка ўручыў яго Л. Васілеўскаму ў Варшаве. Але найважнейшай мэтай, пададзенай у першым пункце мэмарыялу, было прадухіленьне прапанаванага Леніным падзелу Беларусі. Зважаючы на стабілізацыю фронту на Бярэзіне, В. Іваноўскі бачыў такую магчымасьць у тым, каб падчас мірных перамоў прымусіць Расею адмовіцца ад земляў, што ляжалі на захад ад мяжы Рэчы Паспалітай 1772 г. Такім чынам, уся Беларусь апынулася б у палітычнай арбіце Польшчы. Адсюль вынікаў наступны яго пастулят, які прадугледжваў забавязаць Польшчу вырашыць долю Беларусі згодна з воляй яе народу.

Праз два дні, 18 сакавіка, Л. Васілеўскі выехаў у Менск. Выехаў, як пісаў пазьней у справаздачы для ўраду, “з усьведамленьнем усёй цяжкасьці задачы. Бо гаворка ішла аб тым, каб знайсьці з боку беларусаў падтрымку для пазыцыі Польшчы ў перамовах з бальшавікамі пры адначасовым адхіленьні вымогаў, прызнаных імі мінімальнымі”[70].

Відаць, Л. Васілеўскі імкнуўся такім чынам адцягнуць увагу ўраду ад таго, што праект гэтай дэклярацыі ўжо быў прыведзены В. Іваноўскім, і таму не было патрэбы дабівацца яе. У польскіх урадовых колах часта адмоўна ставіліся да рызыкоўных фэдэралісцых праектаў і аддавалі перавагу такім набыткам на ўсходзе, якія былі прыдатныя для нацыянальнай асыміляцыі. З гэтага гледзішча нават прапанова Леніна была для Польшчы недарэчная. А дамаганьне аднаўленьня мяжы 1772 г. недвухзначна паказвала на пэрспэктыву фэдэралісцкага рашэньня, у якім беларусы былі зацікаўленыя больш за палякаў. Таму ня выключана, што гэтая канцэпцыя абмяркоўвалася зь Ю. Пілсудзкім у Вільні і знайшла ў яго падтрымку.

На канфэрэнцыі, якая адбылася 20—24 сакавіка 1920 г. у Менску, В. Іваноўскі і Л. Васілеўскі сядзелі насупраць адзін аднаго. Шаснаццаць гадоў таму абодва супрацоўнічалі пры выданьні першых беларускіх кніжак у Кракаве, а цяпер як кіраўнікі дэлегацыяў Беларусі і Польшчы вызначалі шляхі суіснаваньня двух суседніх народаў[71]. Магчыма, гэтая акалічнасьць і мела пэўнае значэньне для выніку перамоў. Праўда, беларускі бок атрымаў меней грошай, чым хацелася, але здабытыя тады субсыдыі дазвалялі разгарнуць беларускую справу на Меншчыне зь небывалым дасюль размахам. Але праўда і тое, што польскі бок фармальна не прыняў ніякіх абавязкаў адносна беларускай дзяржаўнасьці, аднак выказаў гатоўнасьць да злучэньня беларускіх земляў у адну цэласьць, што ў выпадку пасьпяховых мірных перамоў стварала рэальную пэрспэктыву для польска–беларускай фэдэрацыі.

Але ў ідэі польска–беларускага супрацоўніцтва з абодвух бакоў было шмат праціўнікаў. Яна была новай, а таму малазразумелай зьявай. Пераважная большасьць памешчыкаў на

---

[69] Sprawozdanie L. Wasilewskiego z rokowań z przedstawicielami Białorusi w marcu 1920 r. // Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko–radzieckich. T. II. Warszawa, 1961. S. 687.

[70] Тамсама.

[71] Поўны склад польскай дэлегацыі: Л. Васілеўскі, У. Рачкевіч, С. Ваявудзкі, ртм. Стаміроўскі; беларускай дэлегацыі: В. Іваноўскі, Я. Лёсік, кс. Ф. Абрантовіч, А. Смоліч, А. Уласаў, С. Рак–Міхайлоўскі, К. Цярэшчанка, І. Серада. Гл. тамсама.

Беларусі жадала не фэдэрацыі, а інкарпарацыі ў Польшчу, часам пагаджалася з магчымасьцю пайсьці на пэўныя саступкі беларусам у галіне культуры, аднак абуралася спробам трактаваць іх як палітычных партнэраў. Гучэла меркаваньне, што польскія ўлады за польскія грошы мацуюць беларускі нацыянальны патэнцыял на Меншчыне, які часта абарочваўся супраць Польшчы[72]. Супраць гэтай ідэі паўставала і прапаганда беларускіх эсэраў, якія, ня раз выкарыстоўваючы скандальныя і нягодныя паводзіны польскай арміі і адміністрацыі і кідаючыся лёзунгамі краёвай незалежнасьці, абвінавачвалі прыхільнікаў такога супрацоўніцтва ў згодніцтве перад Польшчай і здрадзе нацыянальным інтарэсам.

Аднак да мірных перамоў і дыскусіяў над *désintéressement* (ступені незацікаўленасьці) Расеі ў землях, якія распасьціраліся на захад ад даўняй мяжы Рэчы Паспалітай, не дайшло. Улетку 1920 г. Чырвоная Армія перайшла ў наступ і выціснула польскія войскі зь Беларусі. 12 ліпеня было ўкладзенае савецка–літоўскае пагадненьне, паводле якога Вільня і беларуская частка Віленшчыны адыйшлі да Літвы, а 30 ліпеня зноў была абвешчаная Беларуская ССР у складзе толькі 18 паветаў[73]. Калі ў сярэдзіне жніўня Чырвоная Армія была разьбітая пад Варшавай, польскія войскі зноў рушылі на ўсход і неўзабаве занялі 12 паветаў новаўтворанай БССР. Пасунуцца далей яны не захацелі. Такім чынам, на савецкім баку засталася мікраскапічная рэспубліка, якая складалася з 6 паветаў Меншчыны[74]. Нарэшце пачаліся мірныя перамовы.

У гэтай сытуацыі адбылася падзея, якая вымоўна адлюстравала стаўленьне Леніна да беларускага пытаньня. Ужо ўва ўступнай фазе перамоў у Рызе кіраўнік савецкай дэлегацыі Адольф Іофэ быў схільны аддаць Беларусь пад уплыў Польшчы наўзамен за прызнаньне ёю савецкай Украіны[75]. Пазыцыя Іофэ фактычна азначала адмову ад засталых на савецкім баку рэшткаў БССР (Меншчыны) і жаданьне пазбыцца такім чынам беларускага пытаньня.

Такая пэрспэктыва абуджала надзеі сярод польскіх і беларускіх фэдэралістаў. Яны разумелі, што ў новай сытуацыі канцэпцыя здабыцьця прыдняпроўскіх абшараў і стварэньня шырокамаштабнай польска–беларускай фэдэрацыі ўжо нерэальная. Затое яны разьлічвалі на адраджэньне Вялікага Княства Літоўскага ў выглядзе г.зв. Сярэдняй Літвы, падзеленай у адпаведнасьці з нацыянальнай структурай насельніцтва на тры кантоны: Віленскі (польскі), Менскі (беларускі) і Ковенскі (літоўскі) з супольным краёвым соймам у Вільні. У аддаленай пэрспэктыве прадугледжвалася аб'яднаньне гэтай дзяржавы з Польшчай на прынцыпах фэдэрацыі альбо аднаўленьне колішняй Рэчы Паспалітай[76].

Ажыцьцяўленьнем гэтай канцэпцыі заняўся, зь ціхага даручэньня Ю. Пілсудзкага, генэрал Люцыян Жалігоўскі. 8 кастрычніка 1920 г. ён рушыў на чале літоўска–беларускай дывізіі на Вільню і ўжо назаўтра заняў гэты горад. 12 кастрычніка ён абвясьціў стварэньне новай дзяржавы — Сярэдняй Літвы — і стварыў яе ўрад — г.зв. Часовую кіруючую камісію. У той самы дзень Л. Жалігоўскі даручыў вядомаму віленскаму дзеячу Вітальду Абрамовічу выкананьне абавязкаў старшыні гэтай камісіі, дырэктарам дэпартамэнту замежных справаў прызначыў Юр'я Іваноўскага, а дырэктарам дэпартамэнту забесьпячэньня — Вацлава Іваноўскага. На працягу некалькіх першых тыдняў Вацлаў кіраваў яшчэ і дэпартамэнтам сельскай і лясной гаспадаркі, а таксама — асьветы, і таму пастараўся, каб прызначыць Браніслава Тарашкевіча кіраўніком аддзелу беларускага

[72] Raport Tupalskiego A. Ruch narodowy białoruski w dobie przedwojennej i podczas wojny. AAN, TSK, syg. 99. S. 9—10.

[73] Круталевич. В.А. Административно–территориальное устройство БССР. Минск, 1966. С. 38.

[74] Пасьля падпісаньня Рыскага трактату ў складзе БССР засталіся толькі Бабруйскі павет Менскае губэрні, часткі Вялейскага павету Віленскае губэрні, а таксама Барысаўскага, Ігуменскага, Мазырскага, Менскага і Слуцкага паветаў Менскай губэрні. — *А.С.*

[75] Dąbski J. Pokój Ryski. Warszawa, 1931. S. 78.

[76] Pobóg–Malinowski W. Najnowsza historia polityczna Polski. T. II. Londyn, 1967. S. 572.

школьніцтва ў гэтым дэпартамэнце. Трэці брат, Станіслаў Іваноўскі, стаў начальнікам аддзелу вайсковай мабілізацыі ў дэпартамэнце ўнутраных справаў Камісіі.

Удзел трох братоў Іваноўскіх ува ўрадзе Сярэдняй Літвы стаў у віленскім асяродзьдзі тэмай для разнастайных камэнтароў. Гэтак жа, як некалі пра пецярбурскую выдавецкую суполку "Загляне сонца і ў наша аконца", пра гэты ўрад гаварылі, як пра асабісты "бізнэс–інтарэс братоў Іваноўскіх", а ў сям'і сьцьвярджалі, што так сталася на зычэньне Ю. Пілсудзкага, якому вельмі падабалася польска–беларуская арыентацыя адной сям'і, якая сымбалізавала нацыянальны расклад гістарычнай Літвы. Для поўнага збору не хапала толькі чацьвертага брата — Тадэвуша, але той быў у Коўне.

Можна дапусьціць, што, ідучы на супрацоўніцтва з Л. Жалігоўскім, Вацлаў разьлічваў перш за ўсё на далучэньне Меншчыны да Сярэдняй Літвы як аднаго з трох заплянаваных кантонаў. Разьлічваў ён і на разьвіцьцё эканамічнай ды культурнай дзейнасьці на беларускіх землях Віленскага кантону. Незалежна ад асабістых перакананьняў, ён атрымаў новы грамадзкі мандат: 10 кастрычніка ў віленскім Беларускім Нацыянальным Камітэце адбылася нарада вядучых дзяячоў, якая ўпаўнаважыла В. Іваноўскага на ўдзел ува ўрадзе Сярэдняй Літвы[77].

Аднак за колькі дзён віленская "Gazeta Krajowa" апублікавала наступную ананімную інфармацыю:

> Для Камітэту было неспадзяванкай, што яны (В. Іваноўскі і Б. Тарашкевіч. — *Ю.Т.*) займуць урадавыя пасады, пакольні камітэт на гэта іх не ўпаўнаважыў. Сп. Іваноўскі і Тарашкевіч займаюць вышэй названыя пасады з сваёй волі, і Нацыянальны камітэт не нясе адказнасьці за іх дзейнасьць у якасьці чальцоў новага ўраду. А сваё стаўленьне да іх Камітэт акрэсьліць у залежнасьці ад таго, які плён дасьць іх дзейнасьць у складзе новага ўраду і наколькі гэтая дзейнасьць будзе адпавядаць асноўным патрабаваньням Камітэту[78].

Цяжка сказаць, ці то была спроба дзяячоў Камітэту перастрахавацца ад такой палітычна рызыкоўнай ініцыятывы, якой было супрацоўніцтва з Л. Жалігоўскім, ці жаданьне адмежавацца ад В. Іваноўскага і скампрамэтаваць яго ў вачох беларускай супольнасьці. Так ці інакш, гэта быў выпад, ня годны сумленнай гульні. Мы ня ведаем, хто быў аўтарам ананімнай публікацыі ў "Gazecie Krajowej", але не падлягае сумневу, што ён належаў да блізкіх супрацоўнікаў Іваноўскага і Тарашкевіча, пра што сьведчаць зьмешчаныя ў працытаванай публікацыі іх пэрсанальныя характарыстыкі. Можна меркаваць, што гэтая падзея перакрэсьліла пэрспэктывы супрацоўніцтва В. Іваноўскага зь дзячамі віленскага Камітэту. Ён адчуваў сябе непажаданай асобай.

Так пачалася чорная паласа. Неўзабаве з Рыгі надыйшлі найгоршыя навіны. Аказалася, што Л. Васілеўскаму ды іншым прыхільнікам фэдэралізму, якія ўдзельнічалі ў перамовах, давялося пагадзіцца з пазыцыяй пераважнай бальшыні польскай дэлегацыі, якая заблякавала адмысловы разгляд пытаньня Меншчыны. Так была пахаваная ідэя беларускага кантону і перакрэсьленая фэдэрацыйная праграма[79].

Засталая Сярэдняя Літва — мікраскапічная дзяржава плошчай 15 тыс. кв. км ды паўмільённым насельніцтвам — ужо не магла адыграць ролі эмбрыёну Вялікага Княства Літоўскага і была няздольная да самастойнага існаваньня. Інкарпарацыя гэтай дзяржавы ў Польшчу станавілася пытаньнем часу. У такіх абставінах Вацлаў Іваноўскі палічыў сваю ролю ў Часовай кіруючай камісіі закончанай і напрыканцы сьнежня 1920 г. падаў у адстаўку[80]. Вынік

[77] Сидоревич А. Тамсама, с. 138; Сташкевич Н. Тамсама, с. 249.

[78] Gazeta Krajowa. 16.10.1920.

[79] Dąbski J. Тамсама, с. 78.

[80] Апошняе распараджэньне В. Іваноўскага ў якасьці дырэктара дэпартамэнту забесьпячэньня датуецца 28.12.1920 г. Гл.: Dziennik Urzędowy Tymczasowej Komisji Rządzącej z Litwy Środkowej… 09.01.1921.

яго дзейнасьці ў ваенныя гады аказаўся адмоўным. Рэальна ацэньваючы нацыянальны патэнцыял, ён ня цешыўся ілюзіяй наконт магчымасьці ўтварэньня самастойнай беларускай дзяржавы, але разьлічваў, што яе можна стварыць у фэдэрацыйным саюзе з Расеяй ці з Польшчай. Гэтыя надзеі разьвеяў ажыццёўлены ў Рызе падзел беларускіх земляў. Абумоўленая нэгатыўнай палітыкай Леніна стаўка на Пілсудзкага аказалася для В. Іваноўскага тройчы фатальнай:

— ён страціў палітычны крэдыт у Менску, дзе яго лічылі палянафілам;

— гэтага крэдыту ён не здабыў і ў Варшаве, дзе яго абвінавачвалі ў сацыяльным радыкалізьме ды беларускім сэпаратызьме;

— ён стаў палітычна небясьпечнай фігурай для віленскіх беларускіх дзеячоў, якія імкнуліся прыстасавацца да дзейнасьці ўва ўмовах Польскай рэспублікі.

## Альтэрнатывы не было

Пасьля выхаду з Часовай кіруючай камісіі Сярэдняй Літвы Вацлаў Іваноўскі вырашыў адысьці ад палітычнага жыцьця і вярнуцца да навуковай працы. Ён думаў пра Варшаўскую палітэхніку. На гэты плян уплывала адсутнасьць вышэйшай тэхнічнай школы ў Вільні, а можа быць, і новая сямейная сытуацыя. У 1920 г. ён разлучыўся з Сабінай і ўзяў шлюб з жыхаркай Вільні Лігіяй Федаровіч. Шлюб адбыўся ў мясцовай эвангелічнай царкве. Аднак Сабіна зь дзецьмі засталася ў Вільні і працавала настаўніцай гімнастыкі ў жаночай гімназіі імя Э. Арэшчыхі. Ня выключана, для разьведзеных мужа і жонкі гэты невялікі горад стаўся зацесным.

Праца ў Варшаўскай палітэхніцы сьпярша прычыняла пэўныя цяжкасьці. Тут не было катэдры тэхналёгіі фэрмэнтацыі харчовых прадуктаў, у галіне якой спэцыялізаваўся В. Іваноўскі яшчэ ў Пецярбурскім тэхналягічным інстытуце. Таму ён выступіў з ініцыятывай стварэньня такой катэдры. Гэтай ідэяй зацікавіўся прафэсар Казімеж Смаленскі, калега Вацлава па Пецярбурскім інстытуце, які з 1919 г. працаваў у Варшаўскай палітэхніцы і падтрымліваў арганізацыю новага кірунку навучаньня.

Першае паведамленьне аб заснаваньні катэдры тэхналёгіі фэрмэнтацыі харчовых прадуктаў і запрашэньні Вацлава Іваноўскага да працы ў гэтай галіне было пададзена ў “Праграме Варшаўскай палітэхнікі на 1921/1922 г.”[1]. Друкаваць гэтую “Праграму” скончылі 29 жніўня 1921 г., з чаго вынікае, што рашэньне інстытуцкага сэнату ў гэтай справе было прынятае перад летнімі вакацыямі 1921 г. Такому рашэньню, безумоўна, папярэднічала арганізацыйная і пэрсанальная падрыхтоўка, якая таксама вымагала часу. Таму выглядае, што захады ў гэтым кірунку Вацлаў распачаў адразу ж пасьля адстаўкі з ураду Сярэдняй Літвы, г.зн. — у студзені 1921 г.

Гэта вельмі істотнае ўдакладненьне, бо яно сьведчыць, што адыход В. Іваноўскага ад палітычнай дзейнасьці быў выкліканы перамогай канцэпцыі інкарпарацыі, а ня стаўленьнем да беларускага пытаньня, ні пазьнейшай камандай Л. Жалігоўскага, ні, тым больш — варшаўскіх уладаў пасьля далучэньня Сярэдняй Літвы да Польшчы. Гэта было самастойнае і незалежнае рашэньне, палітычныя матывы якога мы разгледзім крыху пазьней.

Аднак выезд В. Іваноўскага ў Варшаву зацягваўся. Фармальна загадваць новай катэдрай ён пачаў толькі ўвосень 1922 г., г.зн. з пачаткам новага акадэмічнага году, хаця ўжо ў другім сэмэстры 1921/22 г. ён пачаў лекцыі для студэнтаў чацьвертага курсу хімічнага факультэту[2]. Такім чынам, прынамсі да канца 1921 г. ён заставаўся ў Вільні, не беручы ўдзелу ў дзейнасьці палітычных арганізацыяў. У чаканьні запланаванага пераезду ў Варшаву ён выйшаў з складу Беларускага навуковага таварыства, якое 10 чэрвеня

[1] Program Politechniki Warszawskiej na 1921/1922 r. Warszawa, 1921. S. 49, 94.

[2] Politechnika Warszawska. Plan wykładów i skład osobowy w roku naukowym 1922/1923. Warszawa, 1922. S. 33.

1920 г. абрала яго старшынём[3].

Адзінай сфэрай грамадзкай дзейнасьці В. Іваноўскага заставаўся ў той час Віленскі саюз каапэратываў. Ён быў створаны на пачатку 1920 г., але летні наступ савецкіх войскаў, а пазьней — польскіх, на пэўны час прыпынілі яго дзейнасьць. Сапраўднае яго разьвіцьцё пачалося толькі ў кастрычніку 1920 г., пасьля таго, як В. Іваноўскі атрымаў пасаду дырэктара дэпартамэнту сацыяльнага забесьпячэньня Сярэдняй Літвы[4]. Гэты дэпартамэнт стаў кіраўнічым штабам каапэратыўнага руху на Віленшчыне і яго дзейсным арганізатарам. Таму, карыстаючыся з ініцыятывы і падтрымкі В. Іваноўскага, Віленскі саюз каапэратываў неўзабаве стварыў густую сетку сваіх аддзелаў у вёсках і мястэчках Віленшчыны.

Фармальна дзейнасьць Саюзу адпавядала асноўным прынцыпам каапэратыўнага руху. У першую чаргу ён разьвіваў уласную сетку закупу сельскагаспадарчых прадуктаў: мясцовым земляробам плацілі больш, чым гэта рабілі прыватнікі. Нягледзячы на гэта, пры продажы гэтых вырабаў па рынкавых цэнах Саюз атрымліваў высокі прыбытак і ўжо ў сярэдзіне 1921 г. змог выдзеліць значныя сумы на далейшае разьвіцьцё сваёй дзейнасьці. Ён плянаваў рэарганізаваць сетку продажу прамысловых тавараў, папулярызаваць каапэратыўны рух шляхам чытаньня рэфэратаў, правядзеньня лекторыяў, выданьня каапэратыўнага часопіса, календароў і спэцыяльнай літаратуры, падрыхтоўкі інструктараў[5]. Усё гэта павінна было ўзьняць узровень агратэхнічных ведаў, дапамагаць адбудове зруйнаваных падчас вайны гаспадарак і выправіць матэрыяльны стан вясковага насельніцтва. Гэта адпавядала інтарэсам сялян, пра што сьведчыла іх падтрымка каапэратыўнага руху.

Насельніцтва Віленшчыны з нацыянальнага гледзішча было неаднастайным, і сябрамі Саюзу маглі быць польскія, беларускія і літоўскія каапэратывы. Але фактычна яго дзейнасьць была скіраваная на разьвіцьцё беларускіх каапэратываў, бо яны стваралі важную матэрыяльную і арганізацыйную базу для актывізацыі беларускага нацыянальнага жыцьця, асабліва — школаў, разьмяшчэньне якіх часта супадала зь сеткай каапэратываў. Паводле зьвестак II аддзелу Генэральнага штабу Войска польскага, гэтыя каапэратывы (безумоўна, неафіцыйна) утваралі рэгіянальную арганізацыйную сетку віленскага Беларускага нацыянальнага камітэту[6].

Беларускі характар Віленскага саюзу каапэратываў выклікаў занепакоенасьць сярод афіцыйных дзеячоў Сярэдняй Літвы і нападкі польскіх публіцыстаў. У сярэдзіне 1921 г. Вацлава Іваноўскага абвінавацілі ў тым, што падтрыманы ім беларускі каапэратыўны рух стаўся ў правінцыі інструмэнтам беларускай палітыкі антыпольскага кірунку. Адзіным доказам гэтай "злачыннай дзейнасьці" была інфармацыя пра распаўсюджваньне ў Ашмянскім павеце тыднёвіка "Наша Думка"[7]. Скоса пазіралі ўлады і на пашырэньне беларускага школьніцтва на Віленшчыне, бачачы ў ім тормаз для польскай культурнай экспансіі.

В. Іваноўскі, хаця і ня быў насамрэч сябрам управы Саюзу, але істотна ўплываў на яго дзейнасьць нават і пасьля адстаўкі з ураду Сярэдняй Літвы. Ён прыцягнуў да супрацоўніцтва сваіх надзейных сяброў, якія адыгрывалі асноўную ролю ўва ўправе Саюзу: Антона Трэпку, Уладзіслава Сталыгву, Юстына Ластоўскага, Аркадзя Смоліча ды іншых[8]. Адначасова ён плянаваў стварыць банк і ўдасканаліць сыстэму транспартаваньня і захоўваньня тавараў. З гэтай мэтай у верасьні 1921 г. ён удзельнічаў у заснаваньні акцыянэрнага таварыства "Віленскія таварныя склады PACIFIC", прапускная здольнасьць якіх

[3] ЦДА ЛіМ, Менск, ф. 3, справа 1, арк. 4.
[4] Gazeta Wileńska. 31.05.1921.
[5] Тамсама. 02.06.1921.
[6] Krótki zarys… S. 126.
[7] Raport Tupalskiego A. Ruch narodowy białoruski w dobie przedwojennej i podczas wojny. AAN, TSK, syg. 99, k. 13.
[8] Gazeta Wileńska. 02.06.1921.

пад канец таго году дасягнула 700 вагонаў[9].

Як экспэрт у галіне харчовай прамысловасьці ён імкнуўся, каб Саюз заняўся сушэньнем садавіны і гародніны. У канцы траўня 1921 г. ён выступіў на зьезьдзе прадстаўнікоў Саюзу і так абгрунтаваў сваю прапанову:

> Краіна наша мае сукрытыя скарбы ў выглядзе ягад, грыбоў, садавіны і іншых пладоў лясоў і садоў. Аднак гэтыя сукрытыя скарбы трэба ператварыць у яўныя, засноўваючы ў розных, найбольш адпаведных для гэтага пунктах краіны сушыльні садавіны, якія, выrabляючы штодзень у сярэднім 16 пудоў (1 пуд — каля 16 кг. — *Ю.Т.*) тавару, прызначанага пасьля для продажу на мясцовых рынках, дадуць агромністыя прыбыткі.

Зьезд прыняў гэтую прапанову і пастанавіў прызначыць 2% ад агульнага абароту Саюзу на абсталяваньне колькіх сушыльняў[10]. Такім чынам, насуперак абвінавачаньням і ўзрастаючай непрыязнасьці В. Іваноўскі ня страчваў надзеі на магчымасьць разьвіцьця беларускай каапэрацыі. У канцы 1921 г., калі набліжалася інкарпарацыя Сярэдняй Літвы ў Польшчу, улады разгарнулі нападкі на Віленскі каапэратыўны саюз: яго абвінавацілі ня толькі ў беларускім сэпаратызьме, але і ў імкненьні кантраляваць усё эканамічнае жыцьцё Віленшчыны[11]. Усьлед за гэтым былі зробленыя такія адміністрацыйныя захады, якія пазбавілі Саюз магчымасьці функцыянаваць на дагэтулешніх прынцыпах. Сваю ролю адыграла пры гэтым і імкненьне польскіх прыватных фірмаў пазбыцца беларускай канкурэнцыі.

Стаўка В. Іваноўскага на калектыўную эканамічную дзейнасьць нагадвала яго даваенныя ініцыятывы ў Пецярбургу і Вільні, вынікам якіх было разьвіцьцё выдавецкай дзейнасьці. Гэтая стаўка была свайго роду тэстам на стаўленьне польскіх уладаў да эканамічных і культурных патрэбаў беларускай нацыянальнай меншасьці. Яго вынік аказаўся адназначна адмоўны. Тое, што было магчыма пры царызьме, адроджаная польская дзяржава не дазваляла.

Увосені 1922 г. Вацлаў Іваноўскі распачаў рэгулярную працу ў Варшаўскай палітэхніцы як загадчык катэдры і аддзяленьня тэхналёгіі фэрмэнтацыі харчовых прадуктаў. На гэтай пасадзе ён працаваў да верасьня 1939 г., г.зн. — 16 гадоў. Спачатку — выкладнік–кантрактнік, 4 ліпеня 1924 г. ён атрымаў годнасьць экстраардынарнага прафэсара, а 1 верасьня 1935 г. — ардынарнага прафэсара. Апрача таго, у 1930/1931 — 1932/1933 г. ён выконваў абавязкі дэкана хімічнага факультэту, а ў 1935/1936 — 1936/1937 г. — кіраўніка Вайсковай вучэльні гэтага інстытуту[12]. Паколькі В. Іваноўскі займаў гэтыя пасады, ён уваходзіў і ў сэнат палітэхнікі.

За гэты час прафэсар В. Іваноўскі выгадаваў многіх інжынэраў–тэхнолягаў для польскай прамысловасьці, апроч таго, ён кіраваў дасьледчай працай сваёй катэдры і ўдзельнічаў у рэалізацыі супольных міжынстытуцкіх навуковых праграмаў сярод польскіх ВНУ. Праблематыка навуковых дасьледаваньняў, якія ён праводзіў і якімі кіраваў, супадала з найважнейшымі патрэбамі тагачаснай польскай эканомікі, сярод іх на першым месцы стаялі разнастайныя тэхналягічныя аспэкты харчовай прамысловасьці. Зрэшты, у гэтай галіне ён меў найбольшы досьвед: тэарэтычны, набыты ў Пецярбурскім тэханалягічным інстытуце, і практычны — у Лябёдцы.

Праблемны аспэкт *тэхналёгіі харчовай прамысловасьці* адлюстроўваюць наступныя

[9] Dziennik Urzędowy Tymczasowej Komisji Rządzącej Litwy Środkowej. 30.09.1921; Gazeta Wileńska. 15.12.1921.

[10] Gazeta Wileńska. 02.06.1921.

[11] Krótki zarys… S. 126.

[12] Politechnika Warszawska. Księga pamiątkowa wydana pod red. L. Staniewicza. Warszawa, 1925. S. 360, 383; Politechnika Warszawska. Plan wykładów i skład osobowy na rok akademicki 1935/1936 i 1936/1937. Warszawa, 1935 i 1936.

працы В. Іваноўскага, выкананыя часткова супольна зь іншымі навуковымі супрацоўнікамі палітэхнікі:

*Перапрацоўка садавіны і гародніны*: "Падручнік перапрацоўкі садавіны і гародніны" (1–е выд. 1923 г., 2–е выд. 1924 г.), "Асновы сушэньня" (1924), "Перапрацоўка садавіны для цукровай вытворчасьці" (1925), "Стан і пэрспэктывы разьвіцьця перапрацоўкі садавіны і гародніны" (1925), "Справаздача з выстаўкі він і вырабаў з пладовых сокаў у Варшаве" (1925), "Матэрыялы да характарыстыкі польскіх пладовых він" (1927), "Міжнародная канфэрэнцыя па праблеме садавіны як харчовага прадукта" (1933).
*Дрожджы*: "Дрожджы і іх значэньне ў харчаваньні чалавека" (1929), "Пякарныя дрожджы фабрык Польскай рэспублікі" (колькі выданьняў 1928—1930), "Зьмены ў спрасаваных дрожджах падчас іх захоўваньня" (1934).
*Хлебапякарства*: "Дасьледаваньні над устанаўленьнем тыпу ўзорнай мукі для вызначэньня часу прыгатаваньня пякарных дрожджаў" (1931), "Вывучэньне мукі з млыну «Гураган»" (1933), "Рацыянальны мэтад аналізу мукі і цеста" (колькі выданьняў 1935—1937), "Рацыянальны мэтад вызначэньня цукру ў зерні, муцэ і цесьце" (1937).
*Іншыя праблемы харчовай прамысловасьці*: "Вывучэньне кармавой каштоўнасьці брагі" (1925), "Канфэрэнцыя па праблеме стандартызацыі падачы вынікаў аналізаў харчовых прадуктаў" (1929), "Сучасны стан тэхнікі малочнай вытворчасьці ў Даніі" (1931), "Дзяржаўны кантроль за экспартам прадуктаў земляробства ў Даніі" (1931).

На пачатку 20–х гадоў прафэсары Вацлаў Іваноўскі і Юзаф Турскі распачалі досьледы ў галіне паліўных сумесяў на аснове сьпірту як заменьніка традыцыйнага аўтамабільнага паліва. У 1926—1929 г. яны апублікавалі колькі сваіх працаў ("Паліўныя сумесі на аснове сьпірту. Вынікі ўжываньня правільна прыгатаваных паліўных сумесяў на аснове сьпірту" і "Вытворчасьць сьпірту для паліўных сумесяў"), але пазьней перапынілі дасьледаваньні. Справа ў тым, што гэтыя сумесі не маглі канкураваць з больш танным палівам, якое выраблялася на нафтавай аснове. Спроба ўвесьці ўва ўжытак новы гатунак паліва тлумачылася імкненьнем павялічыць сфэру выкарыстаньня бульбы ды іншай сельскагаспадарчай прадукцыі, бо яе вытворчасьць значна перавышала попыт на мясцовым і замежным рынку. Няўдача ў ажыцьцяўленьні задумы не зьмяншае значэньня гэтых працаў, пра што сьведчаць сучасныя распрацоўкі ў аналягічным кірунку, якія працягваюцца ў краінах зь вялікімі запасамі сельскагаспадарчых рэсурсаў.

Нямала ўвагі прысьвяціў прафэсар В. Іваноўскі праблеме *імпрэгнацыі драўніны*, што ў вялікай ступені было зьвязана зь яго працай на чыгунцы ў якасьці экспэрта ў галіне імпрэгнацыі чыгуначных шпалаў. Вынікі сваіх досьледаў ён падаў у публікацыях: "Дагляд за шпаламі на галяндзкай чыгунцы" (1929), "Разбурэньне будынкаў грыбком і барацьба зь ім" (1933), "Двухлёрнітрафэнолы як антысэптыкі для прапітваньня драўніны" (1938), "Трыхлёрфэнолы і іх выкарыстаньне ў тэхніцы " (1932). Апрача таго, ён апублікаваў працу "Карчаваньне пры дапамозе выбуховых матэрыялаў" (1932).

Нарэшце, незадоўга да другой сусьветнай вайны В. Іваноўскі заняўся праблемамі ачышчэньня і выкарыстаньня фабрычных сьцёкаў пасьля вытворчасьці цэлюлёзы. Ён удзельнічаў у правядзеньні экспэртызы па праблеме забруджаньня вады Віслы цэлюлёзнай фабрыкай Урацлавэка і апублікаваў працу "Шляхі абясшкоджаньня і выкарыстаньня шчолачных адыходаў пры вытворчасьці сульфітнай цэлюлёзы" (1939). Гэта была піянэрская дзейнасьць у галіне аховы навакольнага асяродзьдзя.

Вынікі дасьледчых працаў прафэсара В. Іваноўскага публікаваліся галоўным чынам у польскай хімічнай пэрыёдыцы ("Przemysł Chemiczny", "Rocznik Chemiczny", "Gazeta Rolnicza", "Przegląd Mięsny", "Przemysł Rolny", "Rolnik Ekonomista", "Technika Gorzelnicza" ды інш.) і замежных выданьнях "Zeitschrift für Spiritusindustrie" і "Cereal

Chemistry”. Як вядучы экспэрт у галіне тэхналёгіі ён прадстаўляў Польшчу на міжнароднай канфэрэнцыі па праблемах стандартызацыі аналізаў харчовых прадуктаў у Парыжы (1929), на міжнародным кангрэсе тэхнікі для малочнай вытворчасьці ў Капэнгагене (1931) і міжнародным хімічным кангрэсе ў Будапэшце (1939).

Значэньне дасьледчых працаў прафэсара Іваноўскага палягала ў пасьлядоўным імкненьні ўкараніць іх вынікі ў практычнай прамысловай дзейнасьці. Ён быў аўтарам сямі патэнтаў, зацьверджаных Патэнтным бюро Польшчы, у пяцёх выпадках распрацаваных разам з прафэсарам Ю. Турскім. Акрамя таго, ён меў вынаходы, запатэнтаваныя нямецкім канцэрнам “IG Farbenindustrie”. Ніжэй падаецца сьпіс запатэнтаваных у Польшчы вынаходаў (у той пасьлядоўнасьці, як іх зарэгістравала Патэнтнае бюро)[13]:

1. Спосаб імпрэгнацыі драўніны рошчынамі хлёрфэнолу і яго солямі (24.03.1927)*.
2. Спосаб забесьпячэньня антысэптыкаў у прапітанай драўніне ад вылугаваньня (23.03.1927)*.
3. Спосаб атрыманьня канцэнтраванай воцатнай кісьлі з этылавага алькаголю шляхам акісьленьня ў паветры каталізатарамі (10.01.1928)*.
4. Азотны спажыўны росчын для вырабу прасаваных дрожджаў (31.01.1928)*.
5. Спосаб атрыманьня хлёрагваяколю і солі гваякаласульфонавай кісьлі з парадыхлёрбэнзолу (17.08.1928)*.
6. Сушыльная калёна зь ніжнім душнікам (07.05.1930).
7. Спосаб пераліваньня малака (31.01.1935).

* Патэнт выдадзены В. Іваноўскаму разам зь Ю. Турскім.

Тарнаваны характар дасьледчых працаў прафэсара В. Іваноўскага ад часу да часу выклікаў нараканьні з боку прыхільнікаў чыста тэарэтычнай веды, але для польскай прамысловасьці, гэтаксама, як і для палітэхнікі, яны прыносілі адчувальную карысьць. В. Іваноўскі як экспэрт у галіне тэхналёгіі займаў разнастайныя пасады ў прамысловасьці, што, між іншым, давала магчымасьць шукаць сродкі на пашырэньне гэтага інстытуту. Таму, калі ў 1928 г. паўстаў праект пабудовы двух новых карпусоў палітэхнікі (хімічнай тэхналёгіі і электратэхнікі), В. Іваноўскі адыграў вялікую ролю ў яго ажыцьцяўленьні: стаў сталым сакратаром тэхналягічнай камісіі, старшынём будаўнічага камітэту і кіраўніком яго фінансавай сэкцыі, апрача таго, кіраваў праектнымі работамі новых лябараторыяў у корпусе хімічнай тэхналёгіі[14].

На ацэнку дзейнасьці Вацлава Іваноўскага ў Варшаўскай палітэхніцы ўплывалі яго тагачасная пасьлядоўная беларуская нацыянальная пазыцыя ды ранейшая і пазьнейшая палітычная дзейнасьць. У Беларусі яшчэ ня так даўно дапускаліся нават “цьверджаньні”, быццам ён быў “невукам”[15], а ў Польшчы на гэты конт пераважна маўчалі. Адно пасьля таго, як у 1984 г. Сэнацкая камісія гісторыі і традыцыі Варшаўскай палітэхнікі разгледзела “справу прафэсара В. Іваноўскага”, зьявілася магчымасьць падрыхтаваць элемэнтарную бібліяграфію яго працаў. Аднак дагэтуль, г.зн. да 1992 г., зроблена было няшмат.

У сутнасьці, за апошнія 50 гадоў зьявілася толькі адна ацэнка яго дзейнасьці, зробленая Эўгеніюшам Квяткоўскім, палітыкам, эканамічным дзяячом, аўтарам працаў з гісторыі хімічнай прамысловасьці і хімічнай тэхналёгіі ў Польшчы, а значыцца, асобай кампэтэнтнай. Вацлава Іваноўскага ён згадаў у шэрагу найвыдатнейшых прадстаўнікоў польскай тэхналягічнай навукі, такіх, як Ігнацы Масьціцкі, Юзаф Турскі, Вацлаў Лясьнянскі ды інш., прычым падкрэсьліў іх высокую навуковую падрыхтаванасьць, тонкую выхаваўчую інтуіцыю і надзвычайныя арганізацыйныя здольнасьці[16].

[13] Wykaz patentów udzielonych przez Urząd Patentowy RP w latach 1927—1935. Warszawa.
[14] Przemysł Chemiczny. 1934. № 10—12.
[15] Новікаў І. Выбраныя творы. Т. III. Мінск, 1988. С. 16.
[16] Kwiatkowski E. Dzieje chemii i przemysłu chemicznego. Warszawa, 1962. S. 309—310.

Шмат сэрца і ўвагі аддаваў Вацлаў Іваноўскі студэнцкай моладзі. Ян Карыткоўскі, у 20–я г. — вучань прафэсара, а пазьней, пасьля вайны — і сам прафэсар палітэхнікі, гаварыў пра гэта так:

> Прафэсар Іваноўскі быў вельмі зычлівы для студэнтаў–дыплёмнікаў. Ён меў вялікія сувязі ў фэрмэнтацыйна–харчовай прамысловасьці і дзякуючы гэтаму ўладкоўваў выпускнікоў у гэтай прамысловасьці, а на той час атрымаць працу было вельмі важна. Для студэнтаў, што спэцыялізаваліся ў гэтай галіне, ён арганізоўваў экскурсіі, між іншым, у 1925 г. — у Крушвіцу. Знаходзіў для студэнтаў субсыдыі ў сьпіртовай, малочнай, хлебапякарскай прамысловасьці. Як гуманіст і дэмакрат, быў цалкам талерантны да палітычных перакананьняў студэнтаў. Працуючы ў галіне фэрмэнтацыі, мы часта самі выраблялі алькагольныя напоі, якія ўжывалі на разьвітальных выпускных вечарынах. Прафэсар Іваноўскі лічыў сябе беларусам. Аднойчы арганізавалі экскурсію, і калега, які зьбіраў пашпарты, паказаў мне пашпарт Іваноўскага, дзе было запісана: “нацыянальнасьць — беларус”[17].

З ініцыятывы таго ж самага прафэсара Я. Карыткоўскага 11 кастрычніка 1979 г. у залі Галоўнай тэхнічнай арганізацыі ў Варшаве адбылася сустрэча, прысьвечаная памяці прафэсара В. Іваноўскага, на якую быў запрошаны і аўтар гэтай кнігі. У ёй узялі ўдзел каля 30 вучняў прафэсара, а іх успаміны пацьвердзілі працытаванае паведамленьне і, засьведчыўшы павагу да прафэсара, выявілі шэраг цікавых біяграфічных момантаў. Сярод іншых, у сустрэчы ўдзельнічала і спадарыня Гражына Ліпінская, аўтарка выдадзеных у Парыжы ўспамінаў, дзе аб прафэсару В. Іваноўскім гаварылася наступнае:

> У міжваенныя гады акадэмічная моладзь вельмі любіла яго за прастату, зычлівасьць і арганічную патрэбу прыходзіць кожнаму на дапамогу. Я сутыкнулася зь ім яшчэ раз два гады перад вайной, калі прыехала ў Горадню з Варшавы для арганізацыі перасоўных грыбных сушыльняў, якія тамтэйшая Школа садаводзтва і агародніцтва плянавала эксплюатаваць у Беларусі. Прафэсар быў вынаходнікам гэткай перасоўнай сушыльні. У размове зь ім я заўважыла, што яго цікавіла ня столькі сушыльня, колькі дабро беларускага народу. Я страшэнна выйграла ў яго вачох, калі ў імя працы ў Горадні пакінула Варшаву. Ён растлумачыў, як павінны мы берагчы векавую беларускую культуру, як любіць, вучыць і арганізоўваць тамтэйшы люд, каб узбагаціць яго духоўна і матэрыяльна[18].

У 30–я г. Вацлаў Іваноўскі быў куратарам дзьвюх студэнцкіх арганізацыяў, якія дзейнічалі ў Варшаўскай палітэхніцы: Гуртка віленчукоў і Гуртка навааградчанаў[19]. Здаецца, гэта быў невыпадковы выбар. Праўда, абодва гурткі ня мелі нацыянальнага характару, былі рэгіянальнымі арганізацыямі накшталт зямляцтваў у расейскіх дарэвалюцыйных ВНУ, аднак гуртавалі беларускіх студэнтаў зь Віленшчыны і Наваградчыны. Сярод іх найцясьнейшы кантакт з прафэсарам падтрымлівалі кіраўнікі гэтых гурткоў, якімі пэўны час былі Міхал Вітушка і Мечыслаў Контаўт. Праз некалькі гадоў яны стануць супрацоўнікамі беларускай адміністрацыі ў Менску, але пакуль што працавалі над арганізацыяй Асьветнага таварыства беларусаў у Варшаве. Відаць, на іх просьбу ў 1937 г. прафэсар В. Іваноўскі паставіў свой подпіс пад статутам гэтага Таварыства як адзін зь яго заснавальнікаў[20].

[17] Паведамленьне праф. Яна Карыткоўскага ад 27.09.1979.
[18] Lipińska G. Jeśli zapomnię o nich… Paryż, 1988. S. 201.
[19] Politechnika Warszawska. Skład osobowy i plan studiów na lata 1932/1933—1938/1939. Warszawa, wydanie ciągłe.
[20] Як пісаў Пятро Ластаўка, адзін з арганізатараў і сакратар управы Таварыства, яго заснавальнікамі, якія паставілі свае подпісы пад статутам, былі: прафэсары Музычнай кансэрваторыі ў Варшаве Станіслаў Казура і Браніслаў Руткоўскі, прафэсар Вацлаў Іваноўскі і саліст Міхал Забэйда–Суміцкі (машынапіс у распараджэньні аўтара); гл. таксама: Wiem wszystko. 28.02.1937.

Аб прыватным жыцьці прафэсара В. Іваноўскага ў Варшаве вядома няшмат. Ён здымаў кватэру на вуліцы Кашыковай, 75, побач з палітэхнікай, дзе жыў разам з жонкай да верасьня 1939 г. 26 верасьня 1923 г. нарадзілася адзінае ў гэтым яго другім шлюбе дзіця — сын Пётар–Леанард, ахрышчаны ў рыма–каталіцкім касьцёле Збаўцы ў Варшаве[21]. Наведвалі Вацлава дзеці зь першага шлюбу — Стэфан, Вацлаў і Ганна, якія вучыліся ў Варшаве. На думку знаёмых, яго другі шлюб быў няўдалы. Ён атрымліваў, відаць, немалыя даходы, але ўласнага дому або кватэры ў Варшаве не прыдбаў. Сваё жыцьцё ў гэтым горадзе лічыў часовым, марачы пра сапраўднае жыцьцё ў Беларусі.

Пасьля сьмерці бацькі Леанарда (15 кастрычніка 1919 г.) юрыдычны статус Лябёдкі пэўны час заставаўся нявырашаным. Адно ў меру пасьляваеннай стабілізацыі распачалася працэдура ўваходу ў спадчыну, у выніку якой Вацлаў атрымаў частку фальварку — Рагачоўшчыну і Баяры. Першую зь іх ён аддаў Сабіне, а сабе пакінуў Баяры. Гэта быў у вялікай меры пакрыты лесам абшар плошчай каля 30 га.

У Баярах Вацлаў Іваноўскі наважыўся зрабіць сваю вясковую сядзібу. Выкарчаваў лес і пабудаваў невялікі драўляны дом. Асабліва прываблівала яго ідэя аднаўленьня бацькоўскай садовай гаспадаркі, што ён уважаў за свой сыноўні і грамадзкі абавязак. У прадмове да свайго “Цэньніка” ён пісаў:

> Мне ўдалося адшукаць матачныя дрэвы, прынамсі ў межах гандлёвага набору, 50–гадовы досьвед дапоўніць досьведам забойчай зімы 1928/1929 году і плён гэтага досьведу ў выглядзе набору пладовых дрэваў я аддаю на суд усіх аматараў і ўладальнікаў «паўночных садоў»[22].

Такім чынам, на пачатку 30–х г. пачала функцыянаваць садовая гаспадарка Вацлава, якая прапаноўвала больш за 60 гатункаў прышчэпаў яблыняў, ігрушаў, сьліваў, чарэшняў і вішань. У ваколіцах Баяраў ён арганізаваў яшчэ і каапэратыў, які скупаў малако ў мясцовых земляробаў. Але і гэтым разам Вацлаву не пашчасьціла. У 1934 г. памерла яго маці Ядвіга. Яе пахавалі побач зь Леанардам у сямейным склепе, які знаходзіўся мэтраў за 800 ад Лябёдкі. Пасьля яе сьмерці ўзмацніліся сямейныя праблемы, якія прымусілі Вацлава ў 1938 г. перадаць гаспадарку ў Баярах свайму сыну і выехаць зь Лябёдкі.

Але намер пераехаць на вёску не пакідаў яго. Неўзабаве Вацлаў купіў у ваколіцы Солтанаў Ваўкавыскага павету колькі дзясяткаў гектараў зямлі, плянуючы стварыць новую гаспадарку. Але пасьпеў толькі перавезьці з Баяраў свой драўляны дом. Далейшыя пляны перакрэсьліла другая сусьветная вайна.

Вацлаў з сваёй жыцьцёвай філязофіяй ня ўпісваўся ў рэчаіснасьць міжваеннай Польшчы. Ён дасягнуў сапраўды значных посьпехаў у прафэсійнай кар’еры, але глыбока перажываў сваю нерэалізаванасьць на беларускай ніве, што ўважаў за сваю найважнейшую задачу. У гэтым сэнсе ён ужо не знаходзіў паразуменьня ані ў сям’і, ані ў асяродзьдзі, ані нават сярод часткі сваіх ранейшых сяброў і супрацоўнікаў. У вялікай ступені на гэта паўплывалі новыя палітычныя абставіны.

Сабіна, якая некалі захаплялася і маральна падтрымлівала дзейнасьць Вацлава на ніве беларускага нацыянальнага адраджэньня, ужо падчас першай сусьветнай вайны, у меру распаду сям’і, пачала адыходзіць ад ідэалаў маладосьці і выхавала дзяцей у тыповым для яе асяродзьдзя польскім духу. Цяпер бацькавы погляды яны расцэньвалі як дзівацтва і фактычна іх не прымалі. Як піша Іван Касяк, дачка Вацлава, Ганна, сьцьвярджала ў апошнюю вайну ў Менску, што яе бацька — паляк, і толькі цяпер прыдумаў сабе, быццам ён — беларус[23]. Мабыць, ня лепшы з гэтага гледзішча быў і яго другі шлюб.

Больш разуменьня для ідэйнай пазыцыі Вацлава ў міжваенную пару знаходзілася ў

[21] Dane Urzędu Stanu Cywilnego Warszawa–Śródmieście. 1/6/5/23.

[22] Cennik szczepów owocowych… (бяз даты, пачатак 1930–х г.). S. 4.

[23] Касяк І. Заўвагі да артыкулу аб Іваноўскім // Беларуская Думка. 1984. № 29. С. 34.

яго братоў, Юр'я і Станіслава. У мінулым іх аб'ядноўвала канкрэтная фэдэралісцкая дзейнасьць, цяпер жа — толькі яе ідэя, якая, аднак, пасьля Рыскага трактату падавалася нязбытнай. Вацлаў падтрымліваў цесныя кантакты зь Юр'ем, які пэўны час быў сэнатарам Рэчы Паспалітай. У 30–я г. абодва яны прымалі ўдзел у працы Польскага інстытуту нацыянальных спраў у Варшаве. Калі ў Вацлава здараліся цяжкасьці з атрыманьнем замежнага пашпарту, Юры дзякуючы сваёй пасадзе яму эфэктыўна дапамагаў. Найбліжэйшым ідэалягічна Вацлаву быў яго брат Тадэвуш — прафэсар Ковенскага ўнівэрсытэту, але бачыліся яны рэдка з прычыны тагачасных польска–літоўскіх стасункаў.

Калі ў сваёй сям'і да Вацлава было рознае стаўленьне, дык "на крэсах", сярод памешчыкаў і палітычных дзеячоў, яно было адназначна адмоўнае. У выніку рэвалюцыі гэтыя людзі страцілі свае маёнткі ўва Ўсходняй Беларусі, знайшлі прытулак у Польшчы і зрабіліся зацятымі праціўнікамі беларускага руху, які з прычыны свайго сацыяльнага радыкалізму для іх, як правіла, атаесамляўся з бальшавізмам. Таму Вацлава Іваноўскага абвінавачвалі ў тым, што ён быў галоўным інсьпіратарам гэтага руху, прычым сьцьвярджалася, што рабіў ён гэта ў інтарэсах Расеі[24]. Яго вінавацілі за рэнэгацтва і здраду клясавым інтарэсам свайго асяродзьдзя[25].

Атакам на В. Іваноўскага з боку польскага боку патурала і беларуская прэса, натуральна, з супрацьлеглых пазыцыяў. У 1928 г. віленская газэта "Думка Працы" зьмясьціла артыкул, падпісаны псэўданімам "Саўка Барывой", дзе, між іншым, можна было прачытаць наступнае:

> А што датычыць <...> пана прафэсара Вацлава Іваноўскага <...>, гэта нягодны здраднік Беларусі і беларускае справы! Належыць ён да гэтых "маскарадных кірмашовых беларусаў", якія калісьці былі ў беларускім руху ня дзеля запраўднае ад душы і сэрца, а толькі дзеля забавы і сьмеху, а магчыма — і дзеля скрытае шкоды беларусам[26].

Абразы, кінутыя "Думкай Працы" — газэтай, якую падтрымлівалі камуністы, — маглі быць водгукам распачатай у Менску кампаніі адхрышчваньня ад "клясава чужародных" дзеячоў беларускага нацыянальнага руху, да якіх належаў В. Іваноўскі. У 20–я г. у савецкай Беларусі яго яшчэ ня клялі публічна, але стараліся выкрасьліць з гісторыі руху, асудзіць на забыцьцё. З гэтай мэтай ужо ў 1924 г. усе яго выдавецкія заслугі, якія мелі безумоўнае значэньне для разьвіцьця маладой нацыянальнай літаратуры, пачалі прыпісваць Браніславу Эпімах–Шыпілу[27].

І хаця Шыпіла, як і ўсе сябры ўправы выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца", быў сапраўды шляхецкага паходжаньня, але падчас вайны і рэвалюцыі ён, прынамсі, не займаўся "нядобранадзейнай" палітычнай дзейнасьцю ды, апрача таго, застаўся ў Ленінградзе. Таму менскія ўлады ставіліся пакуль да яго з большай цярпімасьцю.

Выкрэсьліваньню В. Іваноўскага з гістарычнай памяці ў вялікай ступені паспрыяў Жылуновіч, які пасьля няўдалай спробы ўвесьці ў студзені 1919 г. прадстаўнікоў улады Беларускай Народнай Рэспублікі ўва ўрад савецкай Беларусі меў асаблівыя прычыны, каб адмежавацца ад Іваноўскага. У 1925 г. ён абвясьціў, што не В. Іваноўскі, а Б. Шыпіла быў старшынём выдавецкай суполкі, і, апрача гэтага, прыпісаў яму ролю галоўнага дзеяча Круга беларускай народнай прасьветы, утворанага ў 1902 г.[28]. Гэтая фальсыфікацыя, магчыма, была б і ня вартая ўвагі, калі б пасьля дзесяцігодзьдзямі яна не была "навуковым" грунтам для высьвятленьня вытокаў беларускага нацыянальнага руху, у якім для В. Іваноўскага ўжо не было месца.

[24] Gazeta Krajowa. 20.11.1921 i 22.12.1921.
[25] Przegląd Wileński. 13.05.1928. S. 6—7.
[26] Думка Працы. 1928. 28 студзеня.
[27] Скарыніч. Літаратурна–навуковы гадавік. Мінск. 1991. С. 145—146.
[28] Тамсама, с. 149.

Ува ўспамінах З. Жылуновіча, апублікаваных у 1929 г. у Менску, таксама прасочваецца імкненьне адхрысьціцца ад Іваноўскага. У іх апісана, як у 1909 г. у пошуках працы ён накіраваўся ў маёнтак Іваноўскіх у Лябёдцы. Жылуновіч намагаўся паказаць глыбокую сацыяльную прорву паміж ім, бедным беспрацоўным гарбаром з Капыля, і Вацлавам Іваноўскім, чальцом памешчыцкай сям'і, і пагарду і прыніжэньне, якіх ён нацярпеўся ад паганых эксплюататараў. Гэта павінна было дыскрэдытаваць В. Іваноўскага, які ўва ўспамінах фігуруе пад сваім літаратурным псэўданімам "Тройца". Але атрымалася вось што:

> У Лідзе я пачакаў Тройцу. Ён ехаў дамоў з сваёй жонкаю і спаткаў мяне ветла. Тут жа мы прыселі за стол і перакусілі. <...>
> Да прыходу цягніка з маёнтку прыехалі дзьве падводы — адна панская каламажка на спружынах, запрэжаная ў пару добрых стаенных коняй, а другая — просты аднаконны дваровы нарадзік. Тройца з жонкаю ўсеўся ў першы, мяне ж, зразумела, даручыў фурману другое. <...>
> Заехаўшы на дзядзінец, зусім скромны, і спыніўшыся перад звычайным будынкам, які адыгрываў ролю "палацу", Тройца накіраваў мяне ў парабкаўскую кватэрку, а сам, спатканы роднымі, пайшоў у пакоі. "Вы пачакайце крыху, зараз прыдуць і дадуць вам есьці", — суцешыў ён мяне з ганку пакояў.<...>
> Мінула гадзіна часу — мінула больш — я ўсё чакаў, маючы справу з мухамі. Раптам у пакоях Іваноўскіх зайграла музыка. Пачуліся тэнаровыя засьпевы. Музыка і песьні стройнаю мэлёдыяй выліваліся ў адчыненыя вокны пакояў. Ад іх нясло панскім задавальненьнем, бясьпекаю і асалодаю жыцьця. Ну, на мяне–ж раптам музыка нагнала злосьць і роспач. Я ня мог яе слухаць спакойна, тут жа ўзмоцнена пачаўшы думаць, як быць. Было ясна, што дзядзька Тройца пра мяне забыў. <...> Што аставалася рабіць? Чакаць? Чаго? У момант перада мною вызначылася выразная рашучасьць — кінуць Лябёдку і дзядзьку Тройцу. <...> З карзінкаю за плячыма я выйшаў з двара фальварку і пад зыкі музыкі пайшоў на станцыю[29].

Калі нават пераказ Жылуновіча адпавядаў сапраўднасьці, дык яго "прэтэнзіі" выклікаюць зьдзіўленьне. Чаго яшчэ мог чакаць кандыдат на парабка ў маёнтку? Вацлаў спаткаў яго ў Лідзе, запрасіў на вячэру, прыслаў яму нават нейкую асобную павозку, а значыць, абыходзіўся зь ім выключна гасьцінна. Абурыўся ж З. Жылуновіч толькі на тое, што аканом не зьявіўся да яго адразу... Затое не адпавядаюць сапраўднасьці "дэкарацыі" — Лябёдка не была "звычайным будынкам", але адной з найпрыгажэйшых сядзібаў на Гарадзеншчыне. Можна засумнявацца і ў тым, што зраньня там арганізоўвалі канцэрты; як пісаў Жылуновіч з Скрыбава, куды яны прыехалі яшчэ раніцай, дабірацца конна да Лябёдкі трэба было гадзіну... Жылуновіч яўна перабольшыў.

Нападкі з польскага і беларускага боку былі непрыемныя, але В. Іваноўскі зносіў іх цярпліва і не адгукаўся публічна. Ён рэдка ўдзельнічаў у віленскіх імпрэзах беларусаў, час ад часу фінансава дапамагаў рэдакцыі газэты "Biełaruskaja Kryniсa " і "Шлях Моладзі"[30]. Ён адыйшоў ад беларускага руху і нёс за гэта адпаведную кару: забыцьцё і непрыязь. Калі пасьля доўгіх стараньняў пад канец 1937 г. было зарэгістраванае варшаўскае Асьветнае таварыства беларусаў, ніводзін беларускі часопіс не назваў яго імя ў ліку заснавальнікаў гэтай арганізацыі[31]. Часам яго абвінавачвалі ў тым, што ён выкаўзнуўся ад рэпрэсіяў польскай адміністрацыі, ад якіх пацярпелі дзеячы заходнебеларускага руху, і вёў у Варшаве раскошнае жыцьцё[32].

Разгледзім, наколькі абгрунтаваныя былі гэтыя абвінавачаньні ў сьвятле яснага на

[29] Цішка Гартны (Жылуновіч З.). Дваццаць гадоў назад // Полымя. 1929. Травень. С. 164.
[30] Ліст супрацоўніка гэтых часопісаў Мар'яна Пецюкевіча да аўтара ад 16.08.1978 г.
[31] Гл.: Беларускі Фронт. 1937. 5 сьнежня; Шлях Моладзі. 1938. 25 сакавіка; Беларускі Летапіс. 1938. № 1; Калосьсе. 1938. № 1.
[32] Касяк І. Тамсама, с. 34, 36.

першы погляд пытаньня: ці існавала ў той час альтэрнатыва для нацыянальнай апатыі В. Іваноўскага — словам, ці мог ён і якім чынам ажыцьцявіць галоўную мэту свайго жыцьця, якой была беларуская дзяржава?

Пачнём ад Рыскага трактату, які для В. Іваноўскага азначаў канец яго палітычнай кар'еры. Усталяваны ім падзел Беларусі стварыў сытуацыю, якая не абяцала стабілізацыі. Тэарэтычна як Польшча, так і савецкая Расея маглі выкарыстаць свае часткі Беларусі для стварэньня П'емонту для будучага аб'яднаньня, але на практыцы толькі Расея мела да гэтага свой інтарэс і магчымасьці.

Беларускі П'емонт на ўсходзе мусіў быць, натуральна, прыцягальным як для беларусаў, што апынуліся ў Польшчы, так і для палітычных эмігрантаў у Нямеччыне, Чэхаславаччыне, краінах Балтыі і г.д. Таму ў першыя гады існаваньня БССР Масква пайшла на значныя саступкі, якія павінны былі сьведчыць аб тым, што савецкія ўлады ўзяліся за ажыцьцяўленьне беларускіх палітычных пастулятаў.

Толькі цяпер Беларусі была вернутая пераважная частка яе ўсходніх абшараў, якія ў студзені 1919 г. "прысабечыла" сабе Расея, так што пад канец 1926 г. тэрыторыя рэспублікі дасягала ўжо 126 тыс. кв. км, а насельніцтва — 5 мільёнаў чалавек. Гэта была невялікая "дзяржава", хаця ў тагачаснай Эўропе няцяжка было знайсьці і драбнейшыя. Хуткімі тэмпамі ішла адбудова эканомікі, асабліва — сельскай гаспадаркі, прадукцыя якой у 1928 г. дасягнула рэкорднага ўзроўню. Гэтаму спрыяла паляпшэньне матэрыяльнага становішча сялянства, якое складала больш за 80% ад насельніцтва краю.

Але асабліва істотнае значэньне мелі саступкі ў моўнай і культурнай галінах, якія павінны былі перадвызначыць нацыянальны характар будаванага Беларускага дому. Таму была абвешчана шырокая праграма беларусізацыі краю, яна прадугледжвала ўвядзеньне беларускай мовы ў дзяржаўную адміністрацыю, адукацыю, культурную, навуковую, выдавецкую дзейнасьць і г.д. Кожны грамадзянін савецкай Беларусі абавязаны быў авалодаць і ўжываць літаратурную беларускую мову. Ажыцьцяўленьнем гэтай праграмы апекаваўся ўрад БССР.

І сапраўды, ува ўсіх гэтых галінах за кароткі час быў дасягнуты значны посьпех. У 1923—1931 г. выданьне кніжак на беларускай мове павялічылася з 28 да 1301 найменьняў, а іх наклад — з 96 тыс. да 10,2 млн. асобнікаў. За той самы пэрыяд доля беларускамоўных кніг у агульнай прадукцыі БССР паднялася з 15 да 88%, а іх накладаў — ад 21 да 95%[33]. Паўстала сыстэма нацыянальнай адукацыі, у т.л. і вышэйшай. Такім чынам, савецкая Беларусь паступова ператваралася з ідэалягічнай канцэпцыі ў палітычную рэальнасьць. Так прынамсі здавалася.

Палітыка беларусізацыі ў БССР зрабіла глыбокае ўражаньне на нацыянальных дзяячоў за мяжой, бо сьведчыла пра ажыцьцяўленьне іх асноўных эканамічных і культурных патрабаваньняў савецкімі ўладамі. Гэта ў пэўнай ступені прывяло да зьмены стаўленьня эміграцыі да камунізму. У канцы 1925 г. на Бэрлінскай канфэрэнцыі эміграцыйны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі прызнаў БССР адзінай нацыянальнай беларускай дзяржавай[34], пасьля чаго большая частка яго сяброў вярнулася ў Менск. Нямала дзяячоў вярнулася на радзіму зь Літвы, Латвіі, Нямеччыны і Чэхаславаччыны. Беларуская сталіца ніколі дагэтуль ня бачыла такой канцэнтрацыі нацыянальнай эліты, як напрыканцы 20–х г.

Усходні П'емонт значна ўплываў на пазыцыю інтэлігенцыі і настроі народных масаў,

[33] Друк БССР. Мінск. Пастаяннае выданне.

[34] Перад Бэрлінскай канфэрэнцыяй урад БНР прызнаў Менск адзіным цэнтрам нацыянальна–дзяржаўнага адраджэньня Беларусі і самарапусьціўся. Але ён не перадаў, як таго патрабаваў ЦК КП(б)Б, паўнамоцтваў ураду БНР да ўраду БССР. Да таго ж ён ня меў права рабіць крокі падобнага кшталту бяз згоды прэзыдыюму Рады БНР. Што датычыць Бэрлінскай канфэрэнцыі, дык яна прызнала Менск цэнтрам беларускага адраджэньня. — *А.С.*

якія сілай Рыскага трактату апынуліся ў польскай дзяржаве. Варшава ня здолела супрацьпаставіць Маскве пазытыўнай палітыкі што да беларускай нацыянальнай меншасьці. У Рызе перамагла канцэпцыя інкарпарацыі, асноўным прынцыпам якой было ўзмацненьне польскага элемэнту на крэсах шляхам іх калянізацыі ды палянізацыі мясцовага беларускага насельніцтва.

Паводле разьлікаў беларускага дэмографа А. Ракава, за ўсю міжваенную пару ў Заходнюю Беларусь перасялілася каля 300 тыс. польскіх асаднікаў, паліцыянтаў, чыноўнікаў, настаўнікаў і г.д.[35].

Асабліва важным элемэнтам гэтай палітыкі была зямельная рэформа, якой падлягалі ў большасьці сваёй былыя маёнткі расейскага скарбу і Праваслаўнай царквы, тады як польскіх памешчыкаў яна закранула толькі ў невялікай ступені. Прытым большасьць распарцэляваных земляў пераплыла ў гэтым перадзеле не мясцовым беларускім сялянам, а польскім вайсковым і цывільным асаднікам.

Гэта прывяло да зямельнага голаду і паўпэрызацыі заходнебеларускай вёскі, што і без спэцыяльнай інсьпірацыі з–за ўсходняга кардону ўплывала на радыкалізацыю настрояў насельніцтва і ўзмацненьне клясавых і нацыянальных антаганізмаў. У Менску спрытна выкарысталі гэтую сытуацыю для актывізацыі рэвалюцыйнага руху на заходнебеларускіх абшарах. Таму ўжо ў першыя пасьляваенныя гады распачаліся партызанскія дзеяньні і карныя акцыі паліцыі ў адказ, палалі маёнткі і вёскі, гінулі паліцыянты і сяляне. Клясавую напружанасьць падагравала палянізацыйная палітыка ўладаў, асабліва — у асьветнай і рэлігійнай галіне.

Так пачаў раскручвацца калаўрот падзеяў, спыніць які было ўжо немагчыма. Як пісаў Казімеж Падляскі, польскія ўлады ўблыталіся ў сытуацыю, зь якой ужо не было добрых выхадаў[36]. У 20–х г. беларускі рух на далучаных да польскай дзяржавы абшарах разьвіваўся яўна пад уплывам усходняга П’емонту. Гэта датычыла ня толькі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і яе легальных прыбудоваў накшталт Грамады або “Змаганьня”, але ў вялікай ступені таксама і некамуністычных згуртаваньняў, у т.л. і беларускай хадэцыі, якую віленскі біскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі абвінавачваў у тым, што яна ўпала ў “аблуду рэлігійнага індэфэрэнтызму і бальшавізму”[37].

І таму не перабольшваў Людвік Абрамовіч, калі пад канец 20–х г. так ацэньваў тагачасную сытуацыю:

> ...Увесь беларускі рух мае выключна сялянскі характар, і таму — аднабаковы, скрайне радыкальнага адценьня. Калі ён знаходзіцца пад уплывам Менску, дык гэта ў значнай ступені таму, што толькі адтуль мае падтрымку, з польскага ж боку ён сустракаецца або толькі зь непрыязьзю і перасьледам, або з пагардай і зьнявагай, а ў найлепшым выпадку — з абыякавасьцю[38].

У гэты самы час у Крамлі высьпявала новая палітычная стратэгія. Па меры стабілізацыі ў Эўропе надзеі на сусьветную рэвалюцыю згасалі, перамагала канцэпцыя “пабудовы сацыялізму ў адной краіне”, ажыцьцяўленьне якой вымагала ўнутранай маналітнасьці і вонкавай бясьпекі СССР. Была сфармулявана праграма паскоранай індустрыялізацыі, матэрыяльную базу якой павінна была ўтварыць акумуляцыя ўнутраных рэсурсаў. Гэта абумовіла прымусовую калектывізацыю сельскай гаспадаркі і патрэбу ў працоўнай сіле на новых шахтарска–прамысловых цэнтрах. Разам з тым расла патрэба ў нармалізацыі вонкавых дачыненьняў, у тым ліку — і з Польшчай, у якой задачы рэва-

[35] Раков А. Население БССР. Минск, 1969. С. 130.
[36] Podlaski K. Białorusini, Litwini, Ukraińcy. Londyn, 1985. S. 38.
[37] Tomaszewski J. Rzeczpospolita wielu narodów… S. 129.
[38] L.A. (Ludwik Abramowicz.) Literatura i polityka // Przegląd Wileński. 13.05.1928.

люцыйнага руху адыйшлі цяпер на задні плян[39]. У гэтай сытуацыі ранейшая стаўка на прыцягальнасьць беларускага П'емонту страціла сваё прапагандысцкае значэньне. Больш за тое, канцэпцыю беларусізацыі прызналі фактарам сацыяльнай і палітычнай дэзынтэграцыі, а таму — у найвышэйшай ступені шкодным.

Такім чынам, з 1929 г. пачалося плянамернае вынішчэньне жыцьцёвых сілаў Беларусі, якое праводзілася пад лёзунгам барацьбы з нацыянал–дэмакратызмам, г.зв. "нацдэмаўшчынай", і працягвалася практычна да пачатку нямецка–савецкай вайны. У выніку, ува Ўсходняй Беларусі амаль цалкам былі зьнішчаныя нацыянальныя кіраўнічыя кадры, уключна з тымі беларускімі камуністамі, якія ўдзельнічалі ў стварэньні БССР. Гэтую кампанію па вынішчэньні сучасны беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў ахарактарызаваў наступным чынам (цытуецца зь невялікімі скарачэньнямі. — *Ю.Т.*):

> Ужо ў канцы дваццатых гадоў былі разгромленыя Акадэмія навук БССР (першы прэзыдэнт якой У. Ігнатоўскі скончыў жыцьцё самагубствам), на рубяжы трыццатых гадоў пачаўся пагром сярод пісьменьнікаў Беларусі, у творчых аб'яднаньнях. Ужо ў тыя гады была прычыненая непапраўная шкода нацыянальнай культуры, цалкам спыненая палітыка беларусізацыі... Беларускае слова ў гарадох рэспублікі зноў, як і пры царызьме, рабілася ўвасабленьнем "ніжэйшасьці", правінцыйнасьці і неадукаванасьці. Традыцыйная пагарда да нацыянальнай мовы ўзмацнялася пачуцьцём страху і небясьпекі быць абвінавачаным у "нацдэмаўшчыне". Сотні тысяч дзяячоў нацыянальнай культуры — пісьменьнікаў, вучоных, журналістаў, настаўнікаў, а таксама служачых, рабочых і сялян апынуліся ў турмах НКВД, на Калыме, Салаўках, Варкуце, каб ніколі адтуль не вярнуцца...
>
> Застрэліліся кіраўнікі рэспублікі А. Чарвякоў і М. Галадзед — усё ад страху перад нічым не абгрунтаваным, але пагубным абвінавачаньнем у "нацдэмаўшчыне", да якой аўтаматычна далучаліся абвінавачаньні ў шпіянажы і шкодніцтве. Рэпрэсіі, пабудаваныя на "нацдэмаўшчыне" і іншых фальсыфікаваных злачынствах (шпіянаж на карысьць панскай Польшчы, шкодніцтва, намер адарваць Беларусь ад СССР), ахапілі ўсю нацыю — ад верхніх эшалёнаў да самых дэмакратычных нізоў. Мноства людзей тады было пазбаўленае жыцьця і волі, але былі прафэсійныя групы, якія пацярпелі болей за іншых, і сярод іх — настаўнікі беларускай мовы і літаратуры. Для карных органаў гэта былі нібы "гатовыя нацыяналісты", віна якіх ляжала на паверхні, яе ня трэба было нават інсьпіраваць. Мабыць, з той пары ў нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў паняцьце "нацыяналізм" трывала злучылася з пачуцьцём найвялікшай небясьпекі, якая можа пагражаць чалавеку. На ўласным драматычным досьведзе людзі пераканаліся, што абвінаваціць у гэтым жахлівым злачынстве могуць кожнага, хто нарадзіўся ў тутэйшых мясьцінах і мае няшчасьце размаўляць па–беларуску. Беларуская мова, якая нядаўна яшчэ бурна квітнела ў гарадах, пачала вянуць навідавоку, жалезным памялом яе вымяталі з установаў, ВНУ, Акадэміі навук, арганізацыяў і органаў улады. Права карыстацца ёй засталося за некалькімі газэтамі, двума тэатрамі ды Саюзам пісьменьнікаў, які перад вайной скараціўся да двух дзясяткаў членаў. Астатнія былі зьнішчаныя або знаходзіліся ў лягерох на ўсходзе краіны[40].

Магло б здацца, што на пачатку 30–х г., у меру таго, як савецкія ўлады крышылі ўсходні П'емонт, нарэшце надыйшоў час для Польшчы, каб разыграць беларускую кар-

[39] Новыя дасьледаваньні паказваюць, што Сталін ня верыў у магчымасьць рэвалюцыі на Захадзе, аднак ён ня верыў і ў магчымасьць пабудаваць сацыялізм у адной асобна ўзятай краіне. Паскораная індустрыялізацыя служыла перш–наперш стварэньню магутнага ваенна–прамысловага комплексу. Калі гэтая задача была ў асноўным рэалізаваная, на XVIII зьезьдзе КП(б) (сакавік 1939 г.) у якасьці галоўнае задачы савецкае замежнае палітыкі было пастаўленае "павелічэньне ліку савецкіх рэспублік". Адразу па зьезьдзе пачаўся пошук шляхоў да савецка–нямецкага збліжэньня, вынікам чаго стаў пакт Рыбэнтропа–Молатава. — *А.С.*

[40] ЛіМ. 1988. 25 чэрвеня.

ту. Відаць, Масква так і павяла б сябе, калі б апынулася на месцы Варшавы. Але выйшла іначай: антыбеларускі паход савецкіх уладаў з ахвотай падтрымала і Польшча. Калі ў 20–я г. польскія ўлады змагаліся зь беларускім палітычным нацыяналізмам, дык у 30–я г. яны імкнуліся задушыць нават культурную актыўнасьць. Неўзабаве былі зьліквідаваныя рэшткі беларускага школьніцтва, аматарскі тэатральны рух у правінцыі, беларускую мову выціснулі з касьцёлаў, а ксяндзоў перавялі ў польскія парафіі. У 1936—1937 г. былі зачыненыя апошнія грамадзкія арганізацыі ў Вільні: Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, Таварыства беларускай школы і Беларускі нацыянальны камітэт, а іх найбуйнейшых дзяячоў выселілі або дэпартавалі ў канцэнтрацыйны лягер у Бярозе Картускай.

Казімеж Падляскі — сучасны польскі прапагандыст адраджэньня даверу і супрацоўніцтва паміж Польшчай і яе ўсходнімі суседзямі — Беларусьсю, Літвой і Украінай — так падсумаваў вынікі палітыкі міжваеннага польскага ўраду ў дачыненьні да беларускай нацыянальнай меншасьці:

> Як нацыя мы былі гаспадарамі становішча на заходніх беларускіх землях, як ніколі дагэтуль — і як ніколі пазьней. І нічога для іншых мы не зрабілі там добрага. Ані чарговыя ўрады, ані моцныя апазыцыйныя згуртаваньні. Нацыя таксама не прысьпешвала польскіх палітыкаў, каб яны ня йшлі па лініі найменшага супраціву. І тое, што яна не разумела сытуацыі, і тое, што апошняя была нялёгкай — не апраўданьне. Існаваў шанец на тое, каб пад супольным дахам II Рэчы Паспалітай паўстаў беларускі П'емонт — цэнтар сапраўднай і незалежнай культуры, вялікая школа нацыянальных дзяячоў у асьвеце, эканоміцы, самакіраваньні і ... палітыцы. Простая супрацьвага фікцыі БССР, выклік сталінскай нацыянальнай палітыцы. Мы гэты шанец змарнавалі[41].

Драматычная доля беларускага нацыянальнага руху ў абедзьвюх частках падзеленай краіны ў міжваенную пару выключала магчымасьць пасьпяховай адбудовы беларускай дзяржаўнасьці. Ані Масква, ані Варшава не былі ў тую пару зацікаўленыя ў вырашэньні гэтай праблемы, а прыцягальны ўсходні П'емонт аказаўся звычайным ашуканствам.

У гэтай сытуацыі, пры ўсім справядлівым расчараваньні польскай палітыкай, арыентацыя заходнебеларускіх дзяячоў на Менск і Маскву была трагічнай наіўнасьцю. У нармальных умовах яны заплацілі б за гэта вечнай палітычнай кампрамэтацыяй, але ў тагачасных варунках кошт іх наіўнасьці быў яшчэ большы. Сябры КПЗБ і Грамады, якія прамянялі польскі астрог на прытулак у СССР, былі замучаныя ў лягерох і казэматах НКВД, а іх кіраўнік Браніслаў Тарашкевіч даведзены да асаблівага прыніжэньня — ён абвінавачваў сваіх нядаўніх таварышаў як наццэмаў, правакатараў і ворагаў народу, аднак і гэта ня выратавала яго ад расстрэлу[42].

Але В. Іваноўскі ня быў наіўны. Праўда, можна спрачацца, ці была яго палітычная апатыя наступствам таго, што ён прадбачыў акурат гэткую хаду падзеяў, затое не падлягае сумневу, што ён ня бачыў ніводнай прымальнай альтэрнатывы. Хаця ён і мог заняцца абмежаванай культурна–асьветніцкай дзейнасьцю, але з прычыны нэгатыўнай польскай палітыкі яна не абяцала сур'ёзных посьпехаў. Ён мог таксама павялічыць кола пакутнікаў у барацьбе бяз шанцаў на выйгранку, а таму бессэнсоўнай з нацыянальнага гледзішча. І таму ён чакаў вялікага ўзрушэньня, якое б разбурыла створаны ў Вэрсалі і Рызе палітычны ўклад у Эўропе. Толькі яно магло б наблізіць мару пра беларускую дзяржаўнасьць.

І гэтае ўзрушэньне зьдзеялася 1 верасьня 1939 г.

[41] Podlaski K. Тамсама, с. 35.

[42] Sprawy narodowościowe. 1935. № 1—2. S. 70; Аўтабіяграфія Б. Тарашкевіча за 1933 г. // Саковіч А. У пошуках праўды. Нью–Ёрк—Кліўлэнд, 1988. С. 134.

## Новы шанец

Вацлаў і Юры Івааноўскія выехалі з Варшавы не пазьней за 11 верасьня 1939 году, бо на наступны дзень усе дарогі, што вялі з сталіцы на ўсход і на поўдзень, былі перарэзаныя войскамі Вэрмахту. Яны разьвіталіся ў Любліне, гэтым разам назаўсёды. Юры падаўся да Румыніі, а адтуль — да Францыі і Вялікай Брытаніі, падзяліўшы лёс новай польскай эміграцыі. Вацлаў жа, ачуняўшы пасьля кантузіі, якую ён атрымаў падчас бамбардаваньня Любліна, накіраваўся ў Вільню.

Мы ня ведаем, перад ці пасьля 17 верасьня рушыў ён зь Любліна да Вільні і ці разумеў ён, што апынецца на тэрыторыі, захопленай Чырвонай Арміяй. Безумоўна, гэта высьветлілася падчас падарожжа, якому давялося зацягнуцца на некалькі дзён. Аднак наступ савецкіх войскаў не паўплываў на зьмену яго кірунку: Вацлаў не павярнуў з дарогі назад і каля 20 верасьня дабраўся да Вільні. Не скарыстаў ён і пазьнейшыя легальныя магчымасьці, каб вярнуцца ў Варшаву. Ён хацеў быць у Вільні.

Як і шмат разоў раней, гэтае рашэньне Вацлава зрабілася прадметам шматлікіх і разнастайных камэнтароў — бо накіраваўся ён усё ж такі “да бальшавікоў”. У яго сям’і сьцьвярджалі, што да выезду з Варшавы Вацлава схілілі не палітычныя матывы, а заклік палкоўніка Ўмястоўскага[1]. Затое Іван Касяк пісаў, што прычынай выезду было закрыцьцё Варшаўскай палітэхнікі, у выніку чаго Вацлаў мусіў шукаць працы. Пры гэтым аўтар забываецца, што ў верасьні 1939–га лёс Палітэхнікі яшчэ ня быў прадвызначаны[2]. І ўжо зусім фантастычна гучалі “цьверджаньні” савецкіх аўтараў, паводле якіх Вацлаў застаўся пад нямецкай акупацыяй, заснаваў Беларускі камітэт у Варшаве і зрабіўся намесьнікам старшыні Галоўнай рады Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне[3].

Адзінае прымальнае вытлумачэньне гэтага рашэньня Вацлава можна знайсьці ў сьведчаньні інжынэра Віктара Чарвінскага, які вучыўся ў Іваноўскага ў палітэхніцы. Перад самай вайной Чарвінскі кіраваў будаўніцтвам фабрыкі штучнага валакна на Віленшчыне і ўвосень 1939 г. выпадкова сустрэў свайго былога прафэсара ў Вільні. “Што Вы тут робіце, пане прафэсар?” — зьдзіўлена запытаўся Чарвінскі. На што Іваноўскі адказаў: “Чакаю выезду ў Менск, каб будаваць Беларусь, бо я ж беларус, як Вам вядома. Хачу быць у цэнтры падзеяў”[4].

Імавернасьць такога дыялёгу не выклікае сумневу, бо не магло існаваць важнейшых прычын, якія б змусілі ўжо 59–гадовага Вацлава пакінуць сваякоў ды працу, каб туляцца па ваенных дарогах. Наіўна таксама было б меркаваць, што тут адыгрывалі нейкую ролю заклікі палкоўнікаў ці спадзяваньні на сытнейшае жыцьцё ў Вільні. Усё гэта ня мела аніякага значэньня ў параўнаньні з новым шанцам папрацаваць дзеля беларускай дзяржаўнасьці, які зьявіўся ў выніку распаду міжваенных палітычных структураў у Эўропе. Іваноўскі чакаў такога шанцу амаль дваццаць гадоў, а досьвед гэтай пары, у прыватнасьці, разбурэньне Беларускага Дому на ўсходзе, узмацняў ягоную ідэю адбудаваць Беларусь, абапіраючыся на Польшчу. У думках ён ізноў вяртаўся да канцэпцыі фэдэрацыі.

Між тым і надалей не існавала аніякіх рэальных перадумоў для ажыцьцяўленьня ягонае ідэі. Па–першае, яна супярэчыла інтарэсам Масквы і Бэрліна, па–другое — не знаходзіла разуменьня ў Парыжы, Лёндане і Вашынгтоне, і, урэшце, па–трэцяе — большасьць польскіх і беларускіх дзяячоў, грунтуючыся на міжваенным досьведзе, лічыла

[1] Życie i działalność polityczna prof. Wacława Iwanowskiego. Dyskusja na posiedzeniu Senackiej Komisji Historii i Tradycji Uczelni PW w dniu 14.02.1984 r. S. 42. Archiwum Pracowni II wojny światowej Instytutu Historii PAN, A 772/85.

[2] Касяк І. Заўвагі да артыкулу аб Іваноўскім // Беларуская Думка. 1984. № 29. С. 34.

[3] Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Т. II. Минск, 1951. С. 645, 682.

[4] Паведамленьне праф. Яна Карыткоўскага ад 27.09.1978.

гэтую канцэпцыю амаль што нацыянальнай здрадай. Такія настроі падмацоўвала верасьнёўская параза Польшчы. У той час, калі ў польскім асяродзьдзі пераважала жаданьне змагацца, каб аднавіць перадваеннае *status quo*, абсалютная большасьць беларускіх дзяячоў ухваляла вынікі скасаваньня Рыскага трактату і вітала аб'яднаньне ўсіх беларускіх земляў у адной савецкай рэспубліцы. Тым больш што першыя крокі новай улады сьведчылі, што яна нібыта рэалізоўвае найважнейшыя сацыяльна–эканамічныя, моўныя ды культурна–асьветніцкія патрабаваньні беларусаў, праігнараваныя ў міжваенную пару польскімі ўладамі.

Аднак неўзабаве зьявіліся першыя расчараваньні. Савецкая ўлада, праўда, надзяляла сялян зямлёй, давала магчымасьць вылучыцца людзям з сацыяльных нізоў, абвясьціла беларускую мову афіцыйнай, уводзіла яе ў школьнае выкладаньне і выдавала на ёй газэты, але адначасова распачала фізычную ліквідацыю вядомых дзяячоў беларускага нацыянальнага руху. У кастрычніку 1939 г. у Вільні былі арыштаваныя Антон Луцкевіч[5], Аляксандар Уласаў, Ян Пазьняк, Вячаслаў Багдановіч і іншыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Дэпартацыі закранулі таксама чальцоў КПЗБ ды пракамуністычных арганізацыяў. Гэтыя рэпрэсіі спараджалі сярод беларускіх дзяячоў боязь за ўласны лёс, але ў прынцыпе не аслабілі сымпатыі да СССР.

Дадатна паставіліся да новай рэчаіснасьці нават беларускія хрысьціянскія дэмакраты, якія здаўна былі прадметам нападак з боку камуністаў, а таму — як магло б падацца — мелі найменш падставаў, каб ухваляць савецкую ўладу. У студзені 1940 г., гэта значыць, ужо пасьля далучэньня Вільні да Літвы, хадэцкая "Krynica" пісала:

> Верасьнёвы разгром Польшчы даў магчымасьць Савецкаму Саюзу выступіць у ролі абаронцы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад панскага над імі панаваньня і гэткім чынам направіць несправядлівасьць падзелу Беларусі і Ўкраіны з прад 20–цёх гадоў... Беларусы і ўкраінцы, вялікарусы і казацтва розных тэрыторыяў з запраўдным захапленьнем спаткалі гэты паход і бралі ў ім удзел, бо мэта яго была добра зразумелай: злучэньне беларускіх і ўкраінскіх зямель успрыймалася як гістарычная справядлівасьць і даўно чаканая неабходнасьць.
> Шмат–хто з раней незадаволеных, як у межах СССР, гэтак і на эміграцыі, шмат чаго дараваў і зноў перагледзеў на лепшае свае адносіны да СССР, адчуўшы свае патрыятычныя імкненьні задаволенымі[6].

Магло б падацца, што вядомы сваім рацыяналізмам Іваноўскі на гэты раз пачаў разьлічваць на цуд. Сапраўды, калі ўсе навокал адхінalі саму ідэю польска–беларускай фэдэрацыі, толькі ягонае цьвёрдае перакананьне дапамагала яму верыць у будучыню гэтай ідэі, а таксама спадзявацца, што разьвіцьцё ваенных падзеяў зьменіць погляды палітычных дзяячоў абедзьвюх краінаў. Ня выключана, што ён разьлічваў і на падтрымку Юр'я ў прапагандзе сваёй ідэі сярод эмігрантаў, а таксама на большае паразуменьне ў Менску, дзе зь вялікім скептыцызмам назіралі за заходнебеларускай эўфарыяй.

Кастрычніцкія арышты абмінулі Вацлава Іваноўскага, на што, відаць, паўплывала яго шматгадовая адсутнасьць на беларускай палітычнай сцэне. У канцы таго месяца ў Вільні прыйшла да ўлады літоўская адміністрацыя, а выезду ў Менск яму давялося чакаць яшчэ два гады. Таму яму давялося ўладкавацца ў Вільні. Спачатку ён жыў у свайго старога сябра, інжынэра–архітэктара Лявона Дубейкаўскага, на вуліцы Падгорнай і пачаў выкладаць у Прамысловым ліцэі на Антокалі, дзе да канца 1939 г. навучаньне вялося па–польску. Дарэчы, тут у Іваноўскага вучыўся сын Антона Луцкевіча, Лявон. Адначасова Іваноўскі інтэнсіўна дасканаліў сваю літоўскую мову. Калі

[5] А. Луцкевіч арыштаваны 30 верасьня 1939 г. — *А.С.*

[6] Krynica. 1940. 13 studzienia.

адзін зь літоўскіх прафэсараў пахваліў яго, заўважыўшы ў авалоданьні літоўскай мовай вялікі “прагрэс”, Вацлаў паправіў: “Ne progresas, o pažanga” (Не прагрэс, але поступ).

У лістападзе 1939 г. Вацлаў сустрэўся з сваім малодшым братам Тадэвушам, прафэсарам заалёгіі Ковенскага ўнівэрсытэту. Іх аб’ядноўвала адзінства поглядаў на найважнейшыя палітычныя праблемы Беларусі і Літвы. У студзені 1940 г. Тадэвуш узначаліў катэдру заалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту і паспрыяў таму, каб Вацлаву даручылі катэдру хімічнай тэхналёгіі ў гэтым жа ўнівэрсытэце. На той пасадзе Вацлаў Іваноўскі працаваў да чэрвеня 1941 г., г.зн. да нямецка–савецкай вайны, выкладаючы па–літоўску. Апроч таго, ён працаваў кансультантам у віленскім Тарфяным трэсьце[7].

На той час у Вільні сабралася амаль уся сям’я Іваноўскіх. Апроч Вацлава, Тадэвуша і Станіслава, што ўжо жылі тут, прыехала зь Лябёдкі Сабіна з сынамі Сьцяпанам і Вацлавам і дачкой Ганнай, а таксама сястра Галена Скіндэрыха, мужа якой дэпартавалі на ўсход. Як “эксплюататары” яны баяліся рэпрэсіяў з боку савецкіх уладаў і хаваліся ў Вільні, якая цяпер была на літоўскай тэрыторыі. Апусьцелы фамільны фальварак быў разбураны і вынішчаны. Мясцовыя шукальнікі скарбаў у сваім вандалізьме не пашкадавалі нават памерлых: фамільную труньніцу разьбілі, а парэшткі павыкідалі з трунаў. Потым дзеці “гуляліся” чарапамі Леанарда і Ядвігі. Ніхто ім не забараняў...[8]

Увесну 1940 г. сытуацыя ў Эўропе яшчэ больш абвастрылася. Пад націскам пераможнага Вэрмахту палі Данія, Бэльгія, Галяндыя, Нарвэгія і Францыя, пачалася вайна за Вялікую Брытанію. Вырасьлі да таго ж і тэрытарыяльныя апэтыты СССР, пра што сьведчыў напад на Фінляндыю, а таксама акупацыя румынскай Букавіны ды Бэсарабіі. У Літве пакуль панаваў адносны спакой, але мала хто верыў у ягоную трываласьць. Самую вялікую няпэўнасьць спараджалі савецка–нямецкія стасункі. Нічога ў гэты момант ня сьведчыла пра іх пагаршэньне, аднак з разьвіцьцём падзеяў расло агульнае перакананьне, што канфлікт паміж дзьвюма таталітарнымі дзяржавамі непазьбежны.

Палітычная сытуацыя ў Эўропе была няўстойлівая, няясная, шмат яе элемэнтаў магло яшчэ зьмяніцца, але ўвесну 1940 г. прыйшла пара акрэсьліць стратэгічны сцэнар дзеяньня і распачаць адпаведныя прыгатаваньні. Гэтаю справаю Вацлаў Іваноўскі заняўся разам зь Янам Станкевічам — вядомым з даваеннага часу палітыкам, мовазнаўцам і гісторыкам, прыхільнікам польска–беларускага збліжэньня, за што яго шматкроць крытыкавалі беларускія партыі — ад камуністычных да хадэцкіх. У акадэмічным 1939/1940 годзе Станкевіч таксама працаваў у Віленскім унівэрсытэце выкладнікам беларускай мовы, што спрыяла кантактам паміж ім і Вацлавам Іваноўскім. Ян Станкевіч быў адным зь нешматлікіх дзяячоў, каму Іваноўскі сапраўды давяраў. Зрэшты, яны ведалі адзін аднаго з часоў першай сусьветнай вайны, калі разам працавалі ў Менску і Вільні, а потым — у Польскім інстытуце нацыянальных справаў у Варшаве.

Іваноўскі і Станкевіч выходзілі з таго, што Нямеччына наўрад ці пераможа Савецкі Саюз — зь ягонымі бяскрайнімі абшарамі, зь вялікім людзкім ды матэрыяльным патэнцыялам. І, значыць, акупацыя Беларусі будзе толькі часовай. Як і дзяячы польскага падпольля, яны разьлічвалі, што з гэтай вайны абедзьве вялікія дзяржавы выйдуць вельмі аслабелымі, а арганізатарамі паваеннага ладу ў Эўропе будуць заходнія саюзьнікі. Сумняваючыся, аднак, што гэтыя краіны будуць зацікаўленыя ў стварэньні беларускай дзяржавы, і ня маючы аніякіх магчымасьцяў для дзейнасьці на міжнароднай арэне, Іваноўскі і Станкевіч спадзяваліся, што беларускае пытаньне можа быць вырашана толькі разам з аднаўленьнем польскай дзяржавы. Фармальнай праўнай падставай гэтага пра-

[7] Паведамленьне Ежага Кеўліча, б. дырэктара Тарфянога трэсту, ад 08.11.1978.

[8] Вацлаў Іваноўскі. Да 110–годдзя 1880—1943. Мінск, 1990. С. 32; Ivanauskas T. Memuarai. Машынапіс у сямейным архіве.

цэсу мелася быць фэдэрацыя Польшчы і Беларусі як дзьвюх незалежных дзяржаваў.

Для ажыцьцяўленьня гэтай канцэпцыі неабходна было заахвоціць польскі эміграцыйны ўрад, які стаў бы яе адвакатам перад заходнімі дзяржавамі. В. Іваноўскі і Я. Станкевіч верылі ў эфэктыўнасьць сваёй ініцыятывы, якая, на іх думку, несла карысьць і адной, і другой краіне. Інтарэс Польшчы меўся палягаць у стварэньні беларускага буфэру, які аддзяляў бы яе ад Расеі, што пасьля далучэньня Украіны стварыла б цалкам новую палітычную сыстэму ўва Ўсходняй Эўропе, здольную да супрацьстаяньня расейскай і польскай экспансіі.

Гэтая далёкасяжная ідэя, што ў асноўных рысах выглядала, як вяртаньне да фэдэрацыйных праектаў 1919—1920 гадоў, павінна была перш за ўсё знайсьці прыхільнікаў сярод кіраўніцтва польскага падпольля ў Варшаве — бо ад яго залежаў зьмест высыланых ураду справаздачаў і прапановаў. Для Іваноўскага і Станкевіча паўстала неабходнасьць навязаць кантакты з кіраўніцтвам падпольля, хаця пакуль не было падставаў асабліва сьпяшацца.

Гэтая задача была нялёгкай зь некалькіх прычынаў: па–першае, трэба было пераадолець прынцыповыя разыходжаньні пазыцыяў у пытаньні тэрыторыі і, па–другое, абодва дзеячы не зьбіраліся выступаць у ролі бедных сваякоў, разьлічваючы на ўзмацненьне беларускага нацыяналізму ўва ўмовах імавернай нямецкай акупацыі, у тым ліку асабліва што ўдасца атрымаць кантроль над адміністрацыяй і стварыць уласныя збройныя сілы. Супрацоўніцтва зь немцамі, безумоўна, было несумяшчальнае з пазыцыяй польскага падпольля і перакрэсьлівала б усе шанцы польска–беларускага дыялёгу. Таму была прыдумана адмысловая тактыка паводзінаў у гэтай складанай справе, якая прадугледжвала двайную гульню з наступным падзелам галоўных роляў: Іваноўскі меўся заняцца афіцыйнай дзейнасьцю, а Станкевіч — стварыць канспірацыйную групу, якую польскія падпольшчыкі не змаглі б абвінаваціць у супрацоўніцтве зь немцамі.

Згодна з гэтым плянам, за колькі дзён да ўваходу Чырвонай Арміі ў Літву, Латвію і Эстонію, які адбыўся 15 чэрвеня 1940 г., Станкевіч выехаў у Варшаву. Іваноўскі ж застаўся ў Вільні і працягваў працаваць ува ўнівэрсытэце. Неўзабаве голым вокам стала бачна, што каля нямецкай мяжы канцэнтруюцца вялікія злучэньні савецкіх войскаў. Гэта паказвала на тое, што СССР рыхтуецца да вайны, а разам з тым сьведчыла і пра слушнасьць яго прадбачаньняў. У чэрвені 1941 г. ён перажыў масавую дэпартацыю насельніцтва Літвы на ўсход, якая і гэтым разам шчасьліва яго абмінула. У той час Іваноўскі часта мяняў месца жыхарства і не выяўляў палітычнай актыўнасьці. Ён чакаў пачатку вайны і вынікаў місіі свайго сябра ў Варшаве.

Прыехаўшы ў Варшаву, Ян Станкевіч пасяліўся на вуліцы Бэднарскай у доме нумар 17 і далучыўся да дзейнасьці Беларускага камітэту, які тады разьмяшчаўся па адрасе: вул. Ксёнжэнца, 4. Станкевіч вёў курсы беларускай мовы, чытаў лекцыі з гісторыі Беларусі. Адначасова ён распачаў стварэньне падпольнай групоўкі пад назвай Партыя беларускіх нацыяналістаў (ПБН), ад імя якой плянаваў выступаць перад польскім падпольлем. Напрыканцы 1940 г. ён пазнаёміўся з Зосяй Дабрынскай, якая адыграла ў гэтай гульні важную ролю. Зося Дабрынская (у дзявоцтве Корсак), родам з Бардзіловічаў на Віцебшчыне, у 30–я гады настаўнічала ў Варшаве. Вынесенае з дому веданьне і польскай, і беларускай мовы і культуры і павага да абедзьвюх нацыяў (у 1905 г. яе маці арганізавала нелегальную беларускую школу. — *гл. разьдзел III*) паспрыялі таму, што яна паразумелася з Станкевічам ува ўсіх асноўных пытаньнях.

Станкевіч намовіў Дабрынскую ўступіць у ПБН, дзе яна атрымала псэўданім “Ціна Арген”, а разам з тым і ў ЗУБ—АК[9].

[9] ЗУБ *Związek Walki Zbrojnej* Зьвяз узброенай барацьбы — канспірацыйная вайсковая арганізацыя, створаная польскім эміграцыйным урадам (фактычна, на пачатку 1940 г.). Асноўны кірунак дзейнасьці — дывэрсійна–сабатажная работа; камандзір — ген. К. Сасноўскі (з чэрвеня 1940); у 1942 годзе перайменавана ў Армію Краёвую. — *Рэд.*

Увесну 1941 г. па рэкамэндацыі графіка Гайкоўскага яе ўзялі ў Бюро інфармацыі і прапаганды Галоўнага ўпраўленьня ЗУБ—АК. У БІПе Дабрынская працавала ўва ўсходнім нацыянальным сэктары пад кіраўніцтвам дацэнта Ўладзіслава Тамкевіча (“Кшыштафа”), дзе ёй даручылі беларускія справы. Там яна мела псэўданім “Эва”. Адначасова яна ўдзельнічала ў канспірацыйных сходах на кватэры Станкевіча на вуліцы Бэднарскай[10].

На гэтых сходах Дабрынская пазнаёмілася з Самуэлем Кастравіцкім і Вітальдам Буткевічам, якія таксама круціліся па двайной арбіце. Абодва яны паходзілі зь Беларусі і былі стрыечнымі братамі: маці Вітальда, Марыя, была роднай сястрой бацькі Самуэля, Амброжага Кастравіцкага, якога з Вацлавам Іваноўскім яднала сяброўства, фэдэралісцкія перакананьні і дзейнасьць на беларускай ніве напярэдадні і падчас першай сусьветнай вайны. У 1920 г. бацькі абодвух братоў выехалі зь Меншчыны і атрымалі невялікія гаспадаркі ў Лідзкім павеце, аднак Амброжы шмат гадоў жыў у Варшаве, дзе працаваў лекарам. Таму Іваноўскі ведаў Самуэля здаўна, што дазволіла ім лёгка знайсьці супольную мову ў пытаньні канспірацыйнай дзейнасьці. Шмат што гаворыць, што гэта адбылося ў канцы верасьня альбо ў кастрычніку 1939 г. у Вільні, дзе Самуэль хаваўся пасьля верасьнёўскай паразы.

Увосень 1939 г. Самуэль выехаў у Варшаву і працаваў там у вайсковых канспірацыйных арганізацыях. У канцы 1940 г. зь ім увайшоў у кантакт Станкевіч — безумоўна, на прапанову Іваноўскага. Самуэль стаў чальцом ПБН, куды прывёў таксама свайго стрыечнага брата Вітальда. Такім чынам, уся тройца, г.зн. Дабрынская, Кастравіцкі і Буткевіч, распачала дзейнасьць на два бакі, што, на іх думку, мелася служыць адной вялікай справе: аднаўленьню з дапамогай Польшчы беларускай дзяржаўнасьці.

Пры гэтым ім даводзілася быць вельмі асьцярожнымі і захоўваць пільнасьць, каб пазьбегчы магчымых абвінавачаньняў як з боку дзяячоў польскага падпольля, так і з боку беларускіх прыхільнікаў супрацоўніцтва з райхам, што ў абодвух выпадках пагражала б трагічнымі вынікамі. Бо на ўлучаных у склад СССР заходнебеларускіх тэрыторыях ані на трохі не аслабелі міжнацыянальныя антаганізмы, якія гэтым разам востра адчулі на сабе палякі. Не выпадкова Юзаф Мацкевіч, уважлівы назіральнік тагачасных падзеяў, так ахарактарызаваў двайную гульню Кастравіцкага і Буткевіча ў акупаваным немцамі Менску:

> — Так. Але вернемся да нашых справаў. Што, калі з нашымі навязаць кантакт? — спытаў Генрык.
> — З нашымі? З кім? Зь Пекарчуком? Ці з Буткевічам, ці з тым новым Кастравіцкім? Я нічога пэўнага сказаць не магу. Я магу толькі сказаць, што ня ведаю, хто чыёй рукой гуляе...[11]

Увесну 1941 г., калі ўжо было ясна, што немцы нападуць на СССР, да дзеяньняў у Беларусі рыхтавалася таксама выведка Галоўнага камандаваньня ЗУБ—АК. Палкоўнік Тамаш Зан апавядае, што ў тым часе ён быў прызначаны кіраўніком выведкі на паўночна–ўсходняй тэрыторыі, якая ахоплівала Беларусь, Літву, Латвію і Эстонію, і атрымаў загад рыхтаваць кадры для выведніцкіх групаў. Тады да яго зьвярнуліся Кастравіцкі і Буткевіч: яны прасілі залічыць іх у выведніцкую службу ў Беларусі, матывуючы гэта паходжаньнем зь Меншчыны і веданьнем беларускай ды расейскай моў. Пасьля адпаведнага інструктаваньня Зан прызначыў Кастравіцкага кіраўніком філіі Другога аддзелу Галоўнага камандаваньня ў Менску, а Буткевічу даручыў працу на месцах.

---

[10] Паведамленьне З. Дабрынскай ад 1979 г.

[11] Mackiewicz J. Nie trzeba głośno mówić. Londyn, 1985. S. 125.

Буткевіч пісаў:

> Каб палегчыць сабе выезд і потым абгрунтаваць сваё перабываньне на ўсходзе, мы яшчэ ў Варшаве — па дамоўленасьці з Занам — запісаліся ў Беларускі камітэт, які месьціўся на вуліцы Ксёнжэнцай, які разглядаў сваіх чальцоў як будучых кандыдатаў на розныя пасады ў цывільнай адміністрацыі ў Беларусі. Нас Камітэт накіраваў у Менск, паабяцаўшы, што па дамоўленасьці з обэрбурмістрам мы зоймем якіясьці пасады ў цывільнай беларускай адміністрацыі на тамтэйшых абшарах[12].

Тамаш Зан у прынцыпе пацьвердзіў гэтае данясеньне Буткевіча, дапоўніўшы яго, зрэшты, істотнымі драбніцамі. Па–першае, візыт у Камітэт адбыўся ўлетку 1941 г., калі ўжо ішла нямецка–савецкая вайна, па–другое, размова вялася зь Янам Станкевічам, які аформіў дакумэнты на выезд, і, урэшце, па–трэцяе — не было патрэбы загадваць Буткевічу і Кастравіцкаму, каб яны ўвайшлі ў Беларускі камітэт, бо яны ўжо да таго былі ягонымі чальцамі. Хутчэй наадварот — якраз Буткевіч прывёў Зана ў Камітэт і адрэкамэндаваў яго Станкевічу, а дакумэнты Зан атрымаў разам зь імі (на прозьвішча "Воўк"), бо ён таксама выяжджаў на ўсход[13].

Падаецца, што на момант пачатку нямецка–савецкай вайны Станкевіч быў ня надта задаволены вынікамі сваёй місіі. Ён сапраўды ўладкаваў Дабрынскую ў БІП, што было нямала, але ж яе дагэтулешнія намаганьні былі безвыніковымі і не прывялі да перамоваў з кіраўніцтвам падпольля. На гэта паўплывалі як недавер да Станкевіча і перакананьне ў невялікім значэньні групоўкі, якую ён прадстаўляў, так і нежаданьне ЗУБ весьці дыскусіі наконт будучыні заходнебеларускіх земляў, якія дагэтуль лічыліся неад'емнай часткай Рэчы Паспалітай. Яшчэ Станкевіч прыцягнуў да супрацоўніцтва Кастравіцкага і Буткевіча, але ён недаацэньваў значэньня іхнае дзейнасьці ў сфэры вайсковай выведкі. Гэта ён пакідаў Іваноўскаму.

Тым часам фронт борзда пасоўваўся на ўсход. 24 чэрвеня нямецкія войскі ўвайшлі ў Вільню, 28 чэрвеня — у Менск, а 16 ліпеня занялі Смаленск. Ужо ў ліпені сьледам за нямецкімі войскамі на беларускія і літоўскія землі накіраваліся дзяячы ЗУБ—АК, якія, згодна з інструкцыямі Зана, пачалі арганізоўваць выведніцкія сеткі і падпольныя вайсковыя структуры. Аднак Кастравіцкі і Буткевіч чакалі з ад'ездам у Менск і да канца лістапада заставаліся ў Варшаве. Толькі аднойчы — у жніўні — Кастравіцкі ненадоўга выехаў у Баранавічы і Вільню і, спаткаўшыся з Іваноўскім, вярнуўся ў Варшаву. Чаго яны чакалі? Тут прасочвалася сувязь з паводзінамі Іваноўскага, які ўсё яшчэ знаходзіўся ў Вільні. Відаць, Кастравіцкі і Буткевіч ня бачылі магчымасьці абсталявацца ў Менску безь ягонай дапамогі. Ня выключана, што на затрымку з ад'ездам паўплывала жнівеньскае спатканьне Кастравіцкага з Іваноўскім, падчас якога яны пра нешта дамовіліся.

Іваноўскі таксама не сьпяшаўся ў Менск. У ліпені, за нямецкімі войскамі, туды прыехалі Радаслаў Астроўскі, Мікола Шчорс, Вітаўт Тумаш, Адам Дэмідэцкі–Дэмідовіч, Усевалад Родзька, былыя студэнты Іваноўскага — Міхал Вітушка і Мечыслаў Контаўт. Былі і іншыя дзяячы, якія спадзяваліся заняць пасады ў адміністрацыі і стварыць часовы беларускі ўрад, — а ён усё сядзеў у Вільні.

Цяжка з пэўнасьцю сказаць, якія былі на тое прычыны. Магчыма, Іваноўскі чакаў палітычнай дэкларацыі Гітлера наконт захопленых тэрыторыяў альбо хацеў стварыць сабе ў Вільні выгадную стартавую пазыцыю для далейшай дзейнасьці ў Менску — бо, у адрозьненьне ад іншых дзяячоў, ён дагэтуль ня меў кантактаў зь нямецкімі ўладамі і мог быць успрыняты як "чалавек з вуліцы". Наапошку — што найбольш верагодна — ён

[12] Ліст В. Буткевіча да Б. Закшэўскага ("Оскара") ад 29.05.1971.

[13] Паведамленьне Т. Зана з 1979 г.

чакаў правалу бліцкрыгу, бо толькі ў гэтым выпадку ён мог разьлічваць на ажыцьцяўленьне сваіх плянаў.

На пачатку ліпеня 1941 г. дзякуючы намаганьням Уладзіслава Казлоўскага, дзяяча беларускага нацыянал–сацыялістычнага руху, нямецкія вайсковыя ўлады дазволілі аднавіць працу Беларускага нацыянальнага камітэту, зачыненага ў 1938 г. віленскім ваяводам. Паводле рапарту нямецкай службы бясьпекі, Камітэт павінен быў утварыць процівагу для "надта актыўнага літоўскага руху"[14]. Неўзабаве адбыўся ўстаноўчы сход з удзелам больш чым 60 мясцовых дзяячоў, на якім было абранае кіраўніцтва БНК. Старшынём быў абраны Вацлаў Іваноўскі, яго намесьнікамі — Язэп Малецкі і Баляслаў Грабінскі, сакратаром — Язэп Найдзюк, скарбнікам — Уладзіслаў Казлоўскі[15].

Камітэт прадстаўляў перад нямецкімі ўладамі інтарэсы беларускага насельніцтва Літвы і плянаваў арганізоўваць беларускае школьніцтва, а таксама нават і вайсковыя адзінкі, кіруючыся інструкцыямі свайго старшыні, Іваноўскага: "<...> няма іншага для нас, як абароньнікаў нацыі, выхаду, як толькі пераймаць усюды ўладу, браць зброю ў свае рукі, паралізаваць усю дзейнасьць нашых нацыянальных ворагаў"[16]. Неўзабаве, аднак, нямецкі давер да Камітэту пачаў памяншацца, бо, паводле данясеньняў паліцыі, вядучыя дзяячы гэтага Камітэту дапускалі "цалкам няясныя і неадпаведныя выказваньні наконт сваіх нацыянальных задач", — у першую чаргу гэта датычыла В. Іваноўскага[17]. Таму немцы адмовіліся ад палітыкі "супрацьвагі" ў дачыненьні да літоўцаў і кінулі падтрымліваць беларусаў у гарадзкіх органах улады.

У верасьні 1941 г. Іваноўскі наведаў Менск з кароткім азнаямляльным візытам. Дабіраўся туды на спадарожных грузавіках у кампаніі доктара Станіслава Грынкевіча ды Язэпа Найдзюка. Менск пасьля ваенных дзеяньняў быў у страшным стане, адусюль вызірала галеча. Усю тройцу прыняў бурмістар, д–р Вітаўт Тумаш. Ён хацеў як найхутчэй зьехаць зь Менску і прапанаваў Іваноўскаму сваю пасаду, абяцаў нават узяць на сябе неабходныя фармальнасьці перад нямецкімі ўладамі[18]. Іваноўскі ў прынцыпе даў згоду, але хацеў яшчэ крыху счакаць з гэтым і вярнуўся ў Вільню.

Вестка пра тое, што Іваноўскаму прапануюць пасаду бурмістра Менску, хутка даляцела да Кастравіцкага ў Варшаве. Той паведаміў навіну Зану, і апошні, спадзеючыся на магчымае супрацоўніцтва, вырашыў асабіста паразмаўляць з Іваноўскім. Але дамо цяпер слова самому Зану[19]:

> Шаноўны спадар Туронак!
>
> У сувязі з Вашым пытаньнем паведамляю абставіны маёй сустрэчы з прафэсарам Вацлавам Іваноўскім.
>
> Увесну 1941 г. я быў прызначаны кіраўніком выведкі ЗУБ на паўночна–ўсходнім абшары, які Нямеччына магла заняць у ходзе будучай вайны. Пасьля таго, як яна выбухнула, улетку 1941 г. я прыступіў да арганізацыі ячэек 2–га аддзелу на гэтай тэрыторыі. Кіраўніцтва Менскай ячэйкай (прадстаўніцтвам II) я даручыў Самуэлю Кастравіцкаму.
>
> Перад маім выездам з Варшавы ў Вільню ў верасьні 1941 г. Кастравіцкі параіў мне скантактавацца з праф. Вацлавам Іваноўскім, які на той час жыў у Вільні. У мяне быў адрас праф. Януша Івашкевіча, і той зьвёў мяне з праф. В. Іваноўскім.
>
> Нашая размова адбылася пасьля 25 верасьня 1941 г. у кватэры праф. Івашкевіча на вуліцы

[14] Ereignismeldung UdSSR, 09/07/1941, AAN. Александрыйскі мікрафільм, р. 233/2721449.

[15] Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. С. 45; Найдзюк–Александровіч Я. Ліст да аўтара ад 13.11.1978.

[16] Малецкі Я. Тамсама, с. 53.

[17] Ereignismeldung UdSSR, 13.07.1941, AAN. Александрыйскі мікрафільм, р. 233/2721486.

[18] Ліст Я. Найдзюка–Александровіча да аўтара ад 13.11.1978.

[19] Ліст Т. Зана да аўтара ад 24.12.1979.

Зыгмунтоўскай. Мы ведалі, што праф. Іваноўскі неўзабаве павінен заняць нейкую высокую пасаду ў Менску, у сувязі з чым ён мог быць карысны для нашай працы. Тады ж я выклаў Іваноўскаму фэдэрацыйную канцэпцыю паваеннага дзяржаўнага ўладкаваньня Польшчы, Літвы ды Беларусі. Падчас гэтае размовы праф. В. Іваноўскі не пагадзіўся на ніводную з маіх прапановаў аб супрацоўніцтве, адказаўшы мне так: “Я вам дапамагаць ня буду і перашкаджаць ня буду”. Наогул, быў ён тады вельмі асьцярожны.
Мы разьвіталіся, не дасягнуўшы ніякіх дамоўленасьцяў. У выведцы ЗУБ я працаваў да лютага 1942 г. Ведаю, што да гэтага часу супрацоўніцтва з праф. В. Іваноўскім не было. Потым я перайшоў на дывэрсійную дзейнасьць і ніякіх кантактаў з праф. Іваноўскім ня меў.

*Тамаш Зан, пс. “Олесь”*

Паўстае пытаньне, чаму Іваноўскі адхінуў прапанову Зана, калі сам жа разьлічваў на супрацоўніцтва з польскім падпольлем. Па–першае, Іваноўскі ведаў, што пададзеная канцэпцыя паваеннай фэдэрацыі адлюстроўвае асабісты погляд Зана, а не пазыцыю польскага ўраду ў Лёндане і ягоных падпольных мясцовых структураў. Па–другое, Іваноўскі хацеў не падпарадкоўвацца, а быць палітычным партнэрам Польшчы ў барацьбе за беларускую дзяржаўнасьць, і прымаць рашэньні ў гэтай справе не ўваходзіла ў кампэтэнцыю Зана. Аднак Зан атрымаў абяцаньне, што польскай выведцы ў Менску ня будуць перашкаджаць, а гэта ў тагачасных умовах было нямала.

Іваноўскі выехаў у Менск толькі ў сярэдзіне лістапада 1941 г., калі нямецкі наступ заграз у падмаскоўных сьнягох. Гэта стварала пэрспэктывы зацяжной вайны, а значыць, паўставалі розныя варыянты яе працягу і заканчэньня. Іваноўскі, вядома, ня мог здагадвацца, што Сталін тады быў гатовы аддаць Нямеччыне Беларусь, прыбалтыйскія рэспублікі і некаторыя іншыя тэрыторыі СССР, каб толькі ўкласьці з Гітлерам мір[20]. Перад ад’ездам Вацлаў даручыў сваёй дачцэ Ганьне вывезьці зь Вільні ў Лябёдку дзьвюх жанчын–габрэек: Эму Альтбэрг і яе сястру Марыю Арнольдзіху, зь якой Іваноўскі пазнаёміўся ў 1904 г. у Плоцку. У 1979 г. Марыя з удзячнасьцю прыгадвала клопат Іваноўскага, які ўратаваў яе і сястру ад гета і ад сьмерці.

Насьцярожанасьць віленскай паліцыі не ўзбуджала даверу да Іваноўскага і ў Менску, таму ён атрымаў пасаду не бурмістра, а яго намесьніка. Відавочна, акупацыйныя ўлады спадзяваліся знайсьці на пасаду бурмістра больш адпаведнага кандыдата. 17 лістапада Тумаш перадаў Іваноўскаму свае абавязкі і ад’ехаў у Бэрлін[21]. Такім чынам, да чэрвеня 1942 г. дзейнасьцю менскай гарадзкой управы кіравалі два намесьнікі бурмістра: Вацлаў Іваноўскі (пытаньні асьветы і культуры) і Адам Дэмідэцкі–Дэмідовіч (гаспадарчыя пытаньні).

Амаль цэлы год — зь лістапада 1941 г. да восені 1942 г. — Іваноўскі жыў на адной кватэры з сваім сакратаром зь віленскага БНК Язэпам Найдзюком, які выехаў у Менск крыху раней і працаваў у Выдавецтве школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі. Іхныя тагачасныя бытавыя ўмовы Найдзюк апісваў так:

Я жыў разам з прафэсарам Іваноўскім на агульнай кватэры па вуліцы Ленінградзкай. Была ў нас агульная домработніца, цётка Галена, якая гатавала нам ежу. Мы займалі тры пакоі і кухню. У кожнага з нас быў свой пакой, а адзін быў супольны, у якім затрымліваліся прыежджыя госьці. У гэты час я бліжэй пазнаў прафэсара Іваноўскага як добрага, інтэлігентнага і вучонага чалавека. Ён не захапляўся ідэямі і праграмай Гітлера, ня быў германафілам. Яго найвялікшым імкненьнем была арганізацыя якога–колечы жыцьця ў горадзе, каб людзі не галадалі. А таксама — адкрыцьцё беларускага ўнівэрсытэту ў Менску. <...> У Менску мы жылі вельмі сьціпла. Часта

[20] Хрущев Н.С. Воспоминания // Огонёк. 1989, август; Павленко Н. Трагедия Красной Армии // Московские новости. 1989. 7 мая.
[21] Раніца. 1941. 10 сьнежня.

елі чэрствы, не найлепшай якасьці чорны хлеб, час ад часу траплялася каніна. Вясною найчасьцей мы елі зялёную салату з цыбуляй, а пазьней — вараную і сьвежую капусту з сольлю і моркву. Замест цукру ўжывалі патаку. Салату і капусту мы елі часта безь сьмятаны і скварак. Аднак часам знаёмыя з правінцыі прывозілі трохі сыру, саланіны і яец. Тады ў нас была вялікая ўрачыстасьць, вялікае сьвята[22].

А вось што ўспамінае Лявон Галяк, які таксама жыў у доме на вуліцы Ленінградзкай:

Прыпамінаю спатканьне Новага 1942 году ў В. Іваноўскага. Калі заціхла страляніна вітаньня Новага году немцамі, прыйшоў павіншаваць з Новым годам немец, адміністратар дому. Іваноўскі вынес яму ў калідор на талерачцы кілішак і сэндвіч, падзякаваў і выправіў. Мне было вельмі прыемна гэта бачыць, бо, на жаль, часта наглядалася ў адносінах да немцаў нізкапаклоньніцтва, але Іваноўскі патрапіў захавацца адпаведна[23].

Тым часам у Беларусі панавалі хаатычныя палітычныя дачыненьні, нарасталі сацыяльныя канфлікты. Гітлер, які перад нападам на СССР шмат разоў абяцаў утварыць пад пратэктаратам Нямеччыны асобную беларускую дзяржаву, у часе вайны аніяк не выказваўся на гэты конт. 17 ліпеня 1941 г. ён выдаў дэкрэт, паводле якога быў створаны вялікі абшар акупацыйнай цывільнай адміністрацыі — райхскамісарыят Остлянд, у які ўваходзілі Беларусь, Літва, Латвія і Эстонія[24].

А пакуль дэкрэт рыхтаваўся, уладу ў Беларусі ажыцьцяўляў Вэрмахт. Паколькі не было дырэктываў Гітлера наконт яе палітычнага статусу, вайсковыя ўлады, адказныя за арганізацыю мясцовай адміністрацыі, кіраваліся не нацыянальнымі крытэрамі, а прагматызмам. На заходнебеларускіх землях, якія ў міжваенную пару належалі да Польшчы, вайсковыя ўлады ахвотна даручалі кіраўнічыя пасады ў адміністрацыі і паліцыі палякам, якія сюды вярталіся, дзякуючы найперш іх прафэсійнаму досьведу і антыкамуністычным перакананьням.

Кантроль над мясцовым апаратам улады абуджаў надзеі польскіх дзяячоў на стварэньне ўва ўмовах акупацыі такога фактычнага стану, які б спрыяў аднаўленьню польскай дзяржаўнасьці на заходнебеларускіх землях. Стратэгічна яны імкнуліся выключыць з палітычнай гульні беларусаў, якіх яны незалежна ад іх арыентацыі — незалежніцкай ці савецкай — разглядалі як перашкоду ў дасягненьні гэтай мэты. Гэтыя імкненьні ўзмацняліся яшчэ прагай помсты за вядомыя падзеі 1939—1941 гадоў, што выклікала шматлікія асабістыя рахункі. Пасыпаліся даносы на беларусаў за сымпатыі камуністам, што ў першыя тыдні акупацыі выклікала шмат ахвяраў, асабліва сярод беларускай інтэлігенцыі.

Эскаляцыя польска–беларускага канфлікту рабілася непазьбежнай, хаця пакуль што нешматлікая і разьядналая беларуская інтэлігенцыя, над часткай якой вісела суровае абвінавачаньне ў падтрымцы савецкай улады, не магла супрацьстаяць актыўнасьці палякаў. Мала памагло і тое, што немцы прывезьлі з эміграцыі групу беларускіх адміністрацыйных работнікаў — іх было ўсяго некалькі дзясяткаў, і большасьць зь іх асела ў Менску. Тут іх чакала вялікае расчараваньне. Неўзабаве пасьля прыезду ў Менск іх пачалі "вучыць і пераконваць", што весьці палітычную дзейнасьць, прынамсі пакуль, — бессэнсоўна. Іх таксама паінфармавалі, што гэта не перадвызначае стаўленьня Нямеччыны да беларускага пытаньня, бо ў гэтай справе ўсё яшчэ чакалі рашэньня Гітлера.

Новая сытуацыя ўзьнікла ў верасьні 1941 г., калі быў усталяваны акупацыйны цыв-

[22] Ліст Я. Найдзюка–Александровіча да аўтара ад 13.11.1978.

[23] Галяк Л. Успаміны. ЗША, 1982. С. 163.

[24] Палітычную сытуацыю на Беларусі ў 1941—1944 г. я падрабязна прадставіў у кн. "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" (С. 510—677 гэтага выданьня. — *Рэд.*), да якой адсылаю чытачоў, зацікаўленых, у прыватнасьці, дакумэнталізацыяй тагачасных падзеяў.

ільны рэжым, які ўзначаліў генэральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ. Нягледзячы на шматгадовы досьвед палітычнай дзейнасьці, у Беларусі ён сутыкнуўся з праблемай, якую назваў беспрэцэдэнтнай. Краіна, у якую накіраваў яго Гітлер, ня мела традыцыі дзяржаўнай самастойнасьці, вынікам чаго стаў слабы ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці беларускага насельніцтва і моцныя расейскія і польскія палітычна–культурныя ўплывы. Пра гэта асабліва сьведчыла нанятая цывільным рэжымам мясцовая адміністрацыя, нацыянальны склад якой у вельмі малой ступені супадаў з назвай краіны. Таму не выпадкова Кубэ занатаваў: “Беларусь перадусім была ня больш чым цьмяным геаграфічным паняткам у самым непасрэдным значэньні гэтага слова”[25].

У адрозьненьне ад афіцыйнай бэрлінскай палітыкі, якая зводзілася найперш да эканамічнай эксплюатацыі акупаваных абшараў, Кубэ ад пачатку сваёй дзейнасьці ў Менску імкнуўся прышчапіць Беларусі нацыянальную ідэнтычнасьць. Магчымасьць для гэтага яму давала моцная асабістая пазыцыя, якую ён займаў дзякуючы падтрымцы Гітлера. У сваіх артыкулах і інтэрвію Кубэ часта прапагандаваў прынцыпы гэтай палітыкі, даводзячы, што ўва ўмовах, вольных ад расейскага ды польскага палітычнага дамінаваньня, якія стварыла нямецкая акупацыя, беларускі народ атрымаў шанец за кароткі час нагнаць гістарычнае спазьненьне ў разьвіцьці сваёй нацыянальнай сьвядомасьці. Дзейнасьць акупацыйных уладаў у палітычным пляне павінна быць скіравана на паскарэньне гэтага працэсу, на пераадоленьне чужога ідэйнага ўплыву і ўзмацненьне беларускіх нацыянальных элемэнтаў перш за ўсё: праз разьвіцьцё школьніцтва, культуры і працы сярод моладзі. Гэтая новая дарога разьвіцьця павінна была прывесьці Беларусь да эўрапейскай супольнасьці нацыяў і дзяржаваў. Генэральная акруга Беларусь, — сьцьвярджаў Кубэ, — такім чынам, павінна выконваць ня толькі адміністрацыйныя функцыі, прадыктаваныя ўмовамі вайны, яе прызначэньне — стварыць бацькаўшчыну для беларускай нацыі[26].

Заняўшы сваю пасаду ў Менску, Кубэ адразу пачаў увасабляць гэтыя прынцыпы ў жыцьцё. Пад лёзунгам “Беларусь для беларусаў” ён прапагандаваў ідэю нямецка–беларускага адзінства інтарэсаў і супрацоўніцтва, клапаціўся пра аднаўленьне школьніцтва і культурных установаў, абараняў менскія музэі і бібліятэкі ад іх зьнішчэньня і разрабаваньня войскам, ажыцьцявіў поўную парцэляцыю калгасаў, зьвяртаўся ў Галоўную ўправу бясьпекі райху з патрабаваньнем спыніць генацыд жыдоў. Напасьледак ён прызнаў неабходнасьць паступовай беларусізацыі адміністрацыі, Праваслаўнай і Каталіцкай царквы ды іншых галінаў грамадзкага жыцьця.

Палітыка Кубэ сапраўды аддавала перавагу беларусам, але не магла вокамгненна зьмяніць кадравую сытуацыю, асабліва ў адміністрацыі і паліцыі, створаных у пару вайсковай адміністрацыі. Нягледзячы на адкрыцьцё падрыхтоўчых курсаў, беларускіх спэцыялістаў, здольных альбо ахвочых да працы, па–ранейшаму катастрафічна не хапала. Беларускія дзяячы, прыгнечаныя тым, што ня могуць напоўніцу выкарыстаць перавагі, якія ім давала палітыка Кубэ, прычыну сваіх няўдач бачылі ў занадта лібэральным стаўленьні функцыянэраў цывільнай адміністрацыі да палякаў. Усё гэта выклікала далейшыя канфлікты. У верасьні 1941 г. данясеньні паліцыі сьведчылі, што працягваюцца спробы выстаўляць беларускіх чыноўнікаў як камуністаў, але цяпер такія заявы правяраліся больш уважліва, і калі не знаходзілі належных падставаў для абвінавачаньня, прыцягвалі іх аўтараў да адказнасьці. Дзеля гэтага іх колькасьць зьменшылася. Затое ўзрос лік антыпольскіх даносаў з боку беларускіх дзяячоў, якія намагаліся такім чынам перамагчы польскае засільле.

Вось жа, Кубэ мусіў лявіяваць паміж дэкларацыямі ды існуючымі рэаліямі. Хаця ён і пагадзіўся з фактычным станам мясцовай адміністрацыі, але ж з прычыны яе нацыянальнага складу ня мог на ёй будаваць сваю беларускую палітыку. Таму ён пачаў ства-

[25] Kube W. Ein Jahr Zivilverwaltung // Deutsche Zeitung im Ostland. 30.08.1942.

[26] Тамсама; Bengtsson H. Das unbekannteste Volk Europas // Preussische Zeitung. № 237. 1942.

раць беларускую надбудову ў выглядзе цэнтральнай адміністрацыйнай інстанцыі, якая павінна была дзейнічаць у кірунку паступовай беларусізацыі мясцовых структур. Катэгарычнай забароны на тое ад бэрлінскіх уладаў не было, і стварэньне такой інстанцыі ў верасьні 1941 г. падавалася магчымым — вядома ж, не як ураду, але як дапаможнага органа генэральнага камісарыяту ў Менску.

У першых днёх верасьня Кубэ вылучыў на гэтую кіраўнічую пасаду Радаслава Астроўскага — на той час адзінага вядомага беларускага дзеяча на менскай палітычнай сцэне. З гэтай мэтай Кубэ прызначыў Астроўскага кіраўніком адміністрацыі менскай акругі як свайго роду *Nebenbureau* — мясцовага адпаведніка генэральнага камісарыяту. Так Астроўскі заняў важную пазыцыю ў надзеі стварыць зь цягам часу на базе адміністрацыі сталічнай акругі цэнтральную беларускую адміністрацыйную інстанцыю.

Але ў канцы кастрычніка ўсе ягоныя пляны неспадзявана рухнулі ў сувязі з прыездам у Менск Івана Ермачэнкі, якога Альфрэд Розэнбэрг, міністар акупаваных усходніх земляў, прызначыў кіраўніком Беларускай народнай самапомачы (БНС). У прынцыпе, абедзьве гэтыя інстанцыі маглі функцыянаваць паралельна, хаця было відавочна, што пасьля спадзяванай легалізацыі цэнтральнай адміністрацыі Астроўскага БНС будзе падпарадкаваная яму. З такой пэрспэктывай не хацеў пагадзіцца Ермачэнка, які таксама імкнуўся да ролі беларускага правадыра. У канфлікце, які адбыўся паміж імі, Ермачэнка займаў мацнейшую пазыцыю — ня толькі таму, што быў прызначаны Розэнбэргам, але і таму, што меў доказы супрацоўніцтва Астроўскага з камуністамі і польскімі ўладамі, якія ён выкарыстаў супраць свайго суперніка. У выніку Астроўскі страціў давер Кубэ і, каб ўратавацца ад магчымых рэпрэсіяў, выехаў у Смаленск, губляючы тым самым магчымасьць беспасярэдне ўплываць на сытуацыю ў Менску.

Інцыдэнт з Астроўскім не ўзмацніў даверу Кубэ да беларускіх дзеячоў. Аднак у яго не было выбару. Ён прызнаў Ермачэнку, які аказаўся салідным супрацоўнікам і доўгі час адыгрываў галоўную ролю на менскай палітычнай сцэне як старшыня БНС — адзінай санкцыяванай Бэрлінам беларускай грамадзкай арганізацыі. Пасьля гэтага інцыдэнту Кубэ быў больш асьцярожны і стрымана паставіўся да невядомага яму раней Іваноўскага, прызначыўшы яго намесьнікам бурмістра. Відавочна, ён не хацеў новага скандалу.

Іваноўскі, аднак, бясспрэчна выйграваў у вачох Кубэ і плаціў яму ўзаемнай сымпатыяй. Абодва цалкам сыходзіліся ў поглядах на адраджэньне беларускай культуры і нацыянальнай сьвядомасьці. Абодвух яднала любоў да мастацкай літаратуры і тэатру. Напасьледак, Іваноўскі аказаўся адным зь нешматлікіх беларускіх дзеячоў, хто дасканала валодаў нямецкай мовай. Гэта спрыяла іх бліжэйшаму знаёмству і ўзбагачала веды Кубэ пра Беларусь — паводле ягоных слоў, “найменш вядомую краіну Эўропы”, пра яе мінуўшчыну і надзённыя праблемы. Такое паразуменьне двух дзеячоў істотна паўплывала на рост прабеларускіх сымпатыяў Кубэ, а таксама — як мы неўзабаве пераканаемся — на долю Іваноўскага.

Затое дзеячы некаторых беларускіх груповак прынялі Іваноўскага непрыязна. Што праўда, яны прызнавалі заслугі Іваноўскага перад беларускім рухам, бачылі ў ім апошняга з жывых пачынальнікаў таго руху, але разам з тым (якраз з прычыны памянёных абставінаў) у ім бачылі патэнцыйнага канкурэнта ў барацьбе за ўладу. Гэтых засьцярогаў не прымяншаў факт, што Іваноўскі заставаўся ўбаку ад дзейнасьці мясцовых груповак. Зь недаверам ставіліся да яго Ермачэнка, а таксама ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі — ідэйны лідэр радыкальнага нацыянальнага згуртаваньня, які выконваў у Менску функцыю галоўнага школьнага інспэктара.

Вельмі варожа выступілі супраць Іваноўскага некаторыя праваслаўныя дзеячы, прыхільнікі Астроўскага. Ужо ў сьнежні 1941 г. менская служба бясьпекі (СД) атрымала ад іх данос, дзе Іваноўскі называўся залежным ад віленскай курыі каталіком, які дзейнічае ў інтарэсах пальшчызны ды каталіцызму і маскуе свае сапраўдныя памкненьні кло-

патам пра беларусізацыю Каталіцкага касьцёла. Даносчыкі абвінавачвалі Іваноўскага, што такім чынам ён намагаецца адцягнуць увагу нямецкага кіраўніцтва ад польска–каталіцкай экспансіі[27]. Беспасярэдняй зачэпкай для даносу было выданьне пры падтрымцы Іваноўскага напрыканцы 1941 г. у Менску беларускага катэхізісу ксяндза Язэпа Рэшаця, што, відаць, было ўспрынята як пагроза для праваслаўя. Гэта была апошняя беларуская кніга, выдадзеная яго намаганьнямі[28].

У канцы лістапада ў Менск прыехаў Самуэль Кастравіцкі — з мэтай арганізаваць мясцовую выведніцкую ячэйку ЗУБ. Разам зь ім прыехаў Вітальд Буткевіч, які меўся ўзначаліць выведку на месцы. Абодва яны зьявіліся да Іваноўскага, але пасьля размовы зь ім адбыліся істотныя зьмены ў вызначанай ім Занам ролі. Так, Буткевіч ня выехаў у рэгіёны, а быў прызначаны Іваноўскім на працу ў менскую гарадзкую ўправу, затое Кастравіцкі ня стаў менскім рэзыдэнтам выведкі, але праз колькі дзён вярнуўся ў Варшаву[29]. Буткевіч пісаў у справаздачы, што Кастравіцкага адклікалі назад з Варшавы, але гэта не адпавядала сапраўднасьці. Гэта пацьвердзіў і Зан у размове з аўтарам, дадаючы, што пры тагачасных умовах сувязі не магло быць і гаворкі, каб за такі кароткі час з Варшавы прыйшлі нейкія загады.

Здаецца, што да прапановы В. Іваноўскага пра ўладкаваньне абодва афіцэры выведкі паставіліся з большай увагай, чым да загадаў свайго кіраўніцтва. Але Іваноўскі не перакрэсьліў плянаў Другога аддзелу, бо менская рэзыдэнтура ўсё ж была ўтворана, толькі пакуль ёю кіраваў Буткевіч. Іваноўскі забясьпечыў яго кватэрай у доме, дзе жылі работнікі гарадзкой управы, на вуліцы Ленінградзкай, і даў яму пасаду кантралёра, а потым начальніка аддзелу кантролю. Як пісаў Буткевіч:

> Пасада гэтая потым вельмі дапамагала мне ў маёй выведніцкай дзейнасьці. Я меў магчымасьць часта выяжджаць на пэрыфэрыю, уздоўж і ўпоперак зьмераў стратэгічныя шляхі Менск—Слуцак, Слуцак—Баранавічы і чыгуначныя лініі Менск—Бабруйск і Менск—Берасьце. Дзякуючы сваёй пасадзе я меў вольны ўваход на ўсе гарадзкія прадпрыемствы і на многія заводы, якія пераважна працавалі на немцаў. На нарадах у бурмістра я часта сустракаўся з прадстаўнікамі акупацыйных нямецкіх уладаў і нярэдка браў удзел у паседжаньнях, на якіх абмяркоўваліся і пляналіся розныя цікавыя для нашай выведкі распараджэньні[30].

У канцы студзеня 1942 г. у Менск прыехала Гражына Ліпінская (псэўд. “Данута”), якая неўзабаве ўзначаліла аддзяленьне ЗУБ—АК і кіравала ім да канца нямецкай акупацыі. Яна таксама разьлічвала на дапамогу Іваноўскага, якога ведала з часоў навучаньня ў Варшаўскай палітэхніцы. Аднак у новых умовах старое знаёмства магло не спрацаваць, і таму “Данута” папярэдне скантактавалася з Буткевічам.

Вось што ўспамінае Ліпінская:

> Буткевіч быў расчараваны, што Галоўнае камандаваньне прыслала жанчыну. Ён гаварыў, што тут небясьпечна, што пагражаюць немцы і бальшавікі, што лепей адсюль зьехаць. Але я засталася і папрасіла ягоных парадаў наконт арганізацыі ячэйкі. Буткевіч, відавочна, не хацеў гэтым займацца і сказаў: “Арганізуйце сваю ячэйку самі, бо я прыехаў з Варшавы зь іншымі заданьнямі”. Напачатку я зразумела яго так, што ён адмаўляецца ад працы, але Буткевіч растлумачыў,

[27] Ereignismeldung UdSSR, 12.01.1942, AAN. Александрыйскі мікрафільм, T–175, p. 233/2721486.

[28] Катэхізіс падрыхтаваў да друку кс. д–р Станіслаў Глякоўскі, а надрукавала ў канцы 1941 г. друкарня менскай гарадзкой управы. Папярэднік на пасадзе бурмістра, д–р Вітаўт Тумаш, паведаміў, што выданьне адбылося пасьля яго выезду зь Менску (ліст В. Тумаша да аўтара ад 28.06.1979), г.зн. пасьля ўступленьня на пасаду В. Іваноўскага. Кніжка выйшла безь нямецкай цэнзуры.

[29] Ліст В. Буткевіча да Б. Закшэўскага ад 29.05.1971.

[30] Тамсама.

што ягоныя заданьні датычаць беларускіх справаў, аднак паабяцаў працаваць таксама і для вайсковай выведкі. Толькі праз колькі дзён я накіравалася да прафэсара Іваноўскага. Думаю, што Буткевіч ужо пасьпеў зь ім паразмаўляць і параіць маю кандыдатуру. Ува ўсякім выпадку, пры першай сустрэчы прафэсар Іваноўскі абяцаў мне сваю дапамогу, заўважыўшы, што яго не цікавіць, навошта я прыехала ў Менск. Ён даў мне працу ў гарадзкой управе — спачатку даручыў зьбіраць каляровыя мэталы, а потым прызначыў інструктаркай па прамысловасьці. Такая праца давала мне магчымасьць езьдзіць па раёнах, што было вельмі істотна для выведніцкай дзейнасьці[31].

Вось такім парадкам пад адным крылом Іваноўскага пачала дзейнічаць ячэйка акоўскай вайсковай выведкі, а пад другім хаваўся Баляслаў Берут, у будучыні прэзыдэнт Польскай Народнай Рэспублікі. Як вынікае з справаздачы ўдзельнікаў польскага падпольля ў Менску, дапамога Іваноўскага была бясспрэчна вялікай[32]. У выніку ён значна перавыканаў абяцаньне не перашкаджаць дзейнасьці ЗУБ—АК, дадзенае Зану ў верасьні 1941 г.

Стаўленьне Іваноўскага да польскага падпольля заслугоўвае ўвагі зь некалькіх прычынаў. Па–першае, тут адлюстравалася ягоная абыякавасьць да баявых дзеяньняў, якія тады вяліся. Па–другое, Іваноўскі ўсьведамляў, што дзейнасьць ячэйкі малавыніковая: назапашаная ёй ваенная інфармацыя магла б цікавіць толькі камандаваньне Чырвонай Арміі, у той час як гэтая інфармацыя перадавалася, звычайна раз на месяц, з дапамогай кур'ераў у Варшаву, дзе яе апрацоўвалі і высылалі ў штаб галоўнакамандуючага пры польскім урадзе ў Лёндане. Усё гэта займала, як правіла, колькі месяцаў, у выніку чаго інфармацыя безнадзейна старэла і рабілася бескарыснай для апэратыўных рашэньняў, таму можна сумнявацца, ці перадавалі яе ў Маскву. Урэшце, па–трэцяе — акоўская ячэйка ў Менску не была патрэбная Іваноўскаму і не пасярэднічала ў ягоных кантактах з кіраўніцтвам польскага падпольля. У гэтай галіне дзеялі Кастравіцкі з Буткевічам, трымаючы асобную і незалежную сыстэму сувязі.

Дзейнасьць менскай ячэйкі дадатна ацэньвалася ў Варшаве, затое ў Менску спараджала падазрэньні і даносы ў СД — галоўным чынам на Іваноўскага, якога называлі польскім агентам, што дзейнічае на шкоду Беларусі[33]. Асаблівую актыўнасьць тут выяўляў Іван Касяк, які з даваеннага камуністычнага дзяяча ператварыўся ў супрацоўніка гестапа. Як піша Раіса Галяк, падобныя даносы пісаў і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Гэта стварала вакол Іваноўскага пагрозьлівую атмасфэру, а ягоны сусед па кватэры Язэп Найдзюк, які быў сьведкам прыезду незнаёмых людзей з Варшавы, гаварыў, што "ў Іваноўскага зямля гарыць пад нагамі", і баяўся зь ім жыць[34].

Іваноўскі тады пазьбегнуў арышту перш за ўсё дзякуючы генэральнаму камісару Кубэ. Іх дачыненьні паляпшаліся ўсё больш. Кубэ абараніў Іваноўскага ад беспадстаўных нападак, а ў чэрвені 1942 г. адмовіўся ад сваіх першапачатковых засьцярогаў і пагадзіўся прызначыць яго бурмістрам Менску. Гэтае рашэньне прынесла Іваноўскаму асаблівае задавальненьне — ён заняў урэшце пасаду, якую калісьці займалі ў гэтым горадзе ягоныя продкі.

Тагачасны Менск быў невялікім горадам — ён налічваў трохі больш як 100 тыс. жыхароў, напалову менш, чым перад вайной. Налёты нямецкай авіяцыі ды зьнішчальныя акцыі савецкіх войскаў пры адступленьні пакінулі ў ім значныя разбурэньні. Адносна менш пацярпелі прамысловыя прадпрыемствы, якія разьмяшчаліся на ўскраінах гораду,

[31] Паведамленьне Г. Ліпінскай ад 12.08.1979; гл. таксама яе: Jeśli zapomnię o nich… S. 192 і наст.

[32] Życie i działalność polityczna prof. Wacława Iwanowskiego… (паведамленьні В. Буткевіча, Г. Ліпінскай і М. Мойжук).

[33] Касяк І. Заўвагі да артыкулу аб Іваноўскім // Беларуская Думка. 1984. № 29. С.34. Галяк Л. Успаміны. Ч. II. ЗША, 1983. С. 62.

[34] Галяк Л. Успаміны. Ч. I. ЗША, 1982. С. 159.

але нармальна працаваць яны не маглі ў тым ліку і празь вялікі недахоп рабочай сілы — гарадзкія кварталы ляжалі ў руінах, а людзі часьцяком пераяжджалі на вёску ў пошуках даху над галавой. Цяжкасьці павялічвала нястача паліва, харчоў, адзеньня ды іншых прадметаў першай неабходнасьці.

Таму асноўнай задачай гарадзкой управы быў клопат пра элемэнтарныя патрэбы людзей. Івановскі надаваў таксама шмат увагі духоўным патрэбам. Кіраваны ім аддзел асьветы і культуры ўтрымліваў у горадзе каля дваццаці пачатковых беларускіх школаў, этнаграфічны музэй, арганізоўваў выставы жывапісу і народнага мастацтва. Вось толькі не атрымалася адчыніць Пэдагагічнага інстытуту. Затое Івановскі арганізаваў у прадмесьці Менску досьледную станцыю (так званая “Балотная станцыя”), дзе вывучаліся мэтады разьвядзеньня цукровых буракоў на беларускіх глебах[35]. На гэтую тэму ён у свой час абараніў доктарскую дысэртацыю.

Важнай сфэрай культурніцкіх зацікаўленьняў Вацлава Іваноўскага была дзейнасьць гарадзкога тэатру. Дырэктарам яго спачатку быў Ян Краўчонак, потым Пётра Булгак. Паколькі опэрны тэатар заняло нямецкае войска, спэктаклі ішлі ў будынку цяперашняга тэатру імя Янкі Купалы. У адным тэатры працавалі тры акторскія ансамблі — драматычны, опэрны і балетны. Зь цяжкасьцю ўдалося сабраць актораў, знайсьці рэквізыт і дэкарацыі. Івановскі часта запрашаў актораў, рэжысэраў і драматургаў у гарадзкую ўправу на сустрэчы, падчас якіх абмяркоўваўся рэпэртуар і вырашаліся праблемы, зьвязаныя з матэрыяльнымі цяжкасьцямі. Ён ахвотна праводзіў час сярод артыстаў, падтрымліваў зь імі таварыскія кантакты. Артыстка тэатру Яўгенія Седліц была ягоным апошнім каханьнем.

А вось як выглядаў рэпэртуар менскага гарадзкога тэатру ў сэзонах 1941/1942 і 1942/1943:

> *Беларуская клясыка*: “На Антокалі”, “Пан Міністар”, “Шчасьлівы муж” Ф. Аляхновіча; “Міхалка” Далецкіх (В. Іваноўскага); “Пінская шляхта” В. Дуніна–Марцінкевіча.
> *Замежная клясыка*: “Кармэн” Бізэ; “Вольны стралец” Вэбэра; “La Locandiera” Гальдоні; “Затонуты звон” Гаўптмана; “Разьбіты збан ” Кляйста; “Лялечны дом” Ібсэна, “Лекар паняволі” Мальера; “Чароўная флейта” Моцарта; “Яўгені Анегін” Чайкоўскага; “Каварства і любоў” Шылера; “Цыганскі барон” Штраўса[36].

Як трапна сказаў гісторык беларускага тэатру Ўладзімер Сядура, “у тыя змрочныя гады менскі гарадзкі тэатар нёс гараджанам сьвятло мастацтва”[37]. Сапраўды, калі ўзяць пад увагу цяжкасьці ваеннага часу ды беларускую спэцыфіку, колькасьць і якасьць названых рэпэртуарных пазыцыяў уражваюць. Пасьля вайны дырэктар тэатру Булгак заплаціў за гэта шматгадовай адседкай у савецкіх лягерох.

Пад заўсёднай апекай Іваноўскага былі дзевяць менскіх дамоў дзіцяці, якія ён перш за ўсё стараўся забясьпечваць харчамі. У гэтым прымаў удзел і яго супрацоўнік, загадчык аддзелу забесьпячэньня ў гарадзкой управе, Баляслаў Берут.

Увесну 1942 году сытуацыя ў Беларусі яшчэ болей абвастрылася. З аднаго боку, узмацнілася актыўнасьць савецкіх партызанаў, з другога — Галоўная ўправа бясьпекі райху распачала ліквідацыю польскага падпольля. Гэтая акцыя прывяла да значных спустошэньняў у мясцовай адміністрацыі — многія службоўцы–палякі былі арыштаваныя і закатаваныя, іншыя ратаваліся ўцёкамі. У гэтай сытуацыі Кубэ, раздражнёны нігілістычнай палітыкай Бэрліна, вырашыў зрабіць стаўку на актывізацыю беларускага нацыяналізму. У прыватнасьці, ён палічыў неабходным сфармуляваць такую палітычную канцэпцыю, якая павялічыла б зацікаўленасьць беларусаў да супрацы.

У канцы чэрвеня Кубэ ўтварыў інстытут мужоў даверу, зрабіў Ермачэнку сваім дарад-

---

[35] Раніца. 1943. 13 чэрвеня.

[36] Seduro V. The Byelorussian Theater and Drama. New York, 1955. P. 168—173.

[37] Тамсама.

цам, дазволіў стварыць Галоўную раду Беларускай народнай самапомачы і значна пашырыць кампэтэнцыю гэтай арганізацыі, у рамках якой узьнік шэраг аддзелаў, як, напрыклад, палітыкі, вайсковых справаў, школьніцтва, культуры, прапаганды і аховы здароўя. Такім чынам, ствараўся апарат, які ў адпаведны момант быў бы гатовы ўзяць уладу ў Беларусі. Асаблівае значэньне меў дазвол Кубэ на арганізацыю Корпусу беларускай самапомачы пад кіраўніцтвам Ермачэнкі.

Далей былі зробленыя новыя саступкі — утворана Беларускае навуковае таварыства, прафсаюзы, суды, Ліга жанчын, легалізаваная беларуская нацыянальная сымболіка — штандар і герб Пагоня, арганізаваны Цэнтральны каапэратыўны саюз. Неўзабаве Кубэ выдаў распараджэньне, згодна зь якім ранейшыя раёны былі перайменаваныя ў паветы, а бурмістры — у кіраўнікоў гораду, павету і воласьці. Пачаліся размовы наконт адкрыцьця ўнівэрсытэту ў Менску.

У атмасфэры эўфарыі, выкліканай саступкамі з боку Кубэ, у канцы ліпеня 1942 г. у Менску адбыўся зьезд БНС. Зьезд адзначыў, што за кароткі час БНС зьмяніла свой характар і ператварылася з дабрачыннай арганізацыі ў агульнакраёвы цэнтар кіраўніцтва школьніцтвам, культурнай дзейнасьцю, палітыкай, прапагандай, а цяпер пераходзіць да арганізацыі войска, аднаўленьня эканамічнага жыцьця і г.д. “З гэтага вынікае, — гаварылася ў справаздачы зьезду, — што БНС зрабілася цэнтрам ініцыятываў усяго беларускага жыцьця, ягоным кіраўнічым штабам”. Зьезд запатрабаваў зьмяніць статут БНС і прызнаць яе фармальнае права на самакіраваньне[38].

Ермачэнка дасягнуў вяршыні сваёй кар’еры, здавалася, яму ўжо сьвеціць крэсла прэм’ера беларускага ўраду, да якога падводзіў яго Кубэ. Генэральны камісар глыбока верыў у жыцьцёвасьць сваіх плянаў — якраз у гэты час на Эльбрусе залунаў сьцяг райху, а нямецкія войскі дайшлі да Волгі. Ермачэнка пачуваўся дастаткова моцным, хаця ўсё ж асьцерагаўся магчымай канкурэнцыі з боку Іваноўскага: ён не ўключыў апошняга ў склад Галоўнай рады БНС. Іваноўскаму гэта патлумачылі так: маўляў, культурна–асьветніцкая праца ў Менску была так добра арганізаваная гарадзкой управай, што Галоўная рада ўжо ня мела падставы дбаць пра яе. Толькі пасьля таго, як умяшаўся Кубэ, Іваноўскі быў кааптаваны ў Раду і як яе сябра падпісаў у ліпені заклік уступаць у атрады самапомачы[39].

Пэрспэктыва займець уласныя ўзброеныя сілы здавалася ў той час цалкам рэальнай — асабліва пра гэта сьведчыла адкрыцьцё ў Менску і іншых мясьцінах Беларусі курсаў падрыхтоўкі афіцэраў і сяржантаў. Гэта натхняла ўсе беларускія палітычныя групоўкі да актывізацыі сваёй дзейнасьці. У ліпені 1942 г., падчас зьезду БНС, пад кіраўніцтвам Усевалада Родзькі была створана Беларуская незалежніцкая партыя (БНП). Яна выдавала свой бюлетэнь і заклікала бескампрамісна змагацца за незалежнасьць Беларусі зь немцамі, палякамі і савецкімі партызанамі.

Разгортвала сваю дзейнасьць таксама і Партыя беларускіх нацыяналістаў (ПБН), лідэр якой, Ян Станкевіч, з восені 1941 г. знаходзіўся ў Менску, шчыльна супрацоўнічаючы з Іваноўскім. У акоўскім рапарце за ліпень 1942 г. пісалася:

> ПБН, якая робіць стаўку на Ангельшчыну і Польшчу, налічвае каля 500 чалавек. Яе ўзначальвае Цэнтральны камітэт на чале з Станкевічам. ЦК у цяперашні момант месьціцца ў Менску, складаецца з 8 заходнікаў і 4 усходнікаў (нацдэмаў). Партыя пабудаваная па сыстэме пяцёрак. У большасьці раёнаў ёсьць свае партыйныя асяродкі. Паколькі сувязь падтрымліваць цяжка, партыя прымае толькі тых людзей — сярод здольных да работы і ідэйна блізкіх, — хто неабходны партыі з увагі на сваё становішча. Абавязак кожнага чальца партыі — стварыць вакол сябе як мага шырэйшае “магнэтычнае поле” з мэтай фармаваньня сапраўдных беларусаў[40].

[38] Раніца. 1942. 16 жніўня.

[39] Раніца. 1942. 26 ліпеня.

[40] Справаздача “Эвы” з падарожжа ў Менск. ЦА ЦК ПАРП 203/VII–45, k. 19.

Тактыку ПБН рапарт апісваў наступным чынам:

Хаця беларусы хочуць дзейнічаць у паразуменьні з Польшчай, у гэты момант яны вымушаны манэўраваць так, каб не адштурхнуць ад сябе немцаў, прынамсі пакуль ня будзе ўтворана беларускае войска (яно мае налічваць 150 000 чалавек), таму цяпер галоўная задача — укараняць сваіх людзей у вайсковыя аддзелы з тым, каб яны ўтваралі партыйныя ячэйкі, аж да дасягненьня поўнага кантролю над войскам і паліцыяй. <...> Беларусы імкнуцца мірным шляхам атрымаць ад немцаў як мага больш, а рэшту забраць у іх, калі іх зусім разаб'юць[41].

Рэалізацыя палітычнай стратэгіі ПБН, г.зн. здабыцьцё падтрымкі ад Ангельшчыны і Польшчы, залежала, аднак, у вялікай ступені не ад актыўнасьці на мясцовым узроўні, але ад вынікаў місіі Кастравіцкага, які пасьля візыту да Іваноўскага ў канцы лістапада 1941 г., ігнаруючы дырэктывы Зана, раптоўна вярнуўся ў Варшаву. Фармальна кажучы, гэта была несубардынацыя, невыкананьне загаду, што магло б кепска скончыцца для Кастравіцкага. Такі быў кошт падвойнай гульні, у якой Кастравіцкі мусіў таксама ўлічваць інтарэсы беларускага боку. Зрэшты, нічога благога тады ня здарылася.

У студзені 1980 г. Бэрнард Закшэўскі, былы начальнік контравыведкі Галоўнага камандаваньня ЗУБ—АК (псэўданім "Оскар") растлумачыў аўтару прычыну паводзінаў Кастравіцкага. Калі Кастравіцкі вярнуўся ў Варшаву, то накіраваўся не да Зана, а да начальніка штабу Галоўнага камандаваньня, генэрала Тадэвуша Пэлчынскага ("Гжэгажа"), якому перадаў прывезеную ад Іваноўскага важную інфармацыю. Пасьля гэтага Пэлчынскі адрэкамэндаваў Кастравіцкага Закшэўскаму і загадаў уладкаваць яго ў аддзел контравыведкі на пасаду кіраўніка ячэйкі "996", у кампэтэнцыі якой знаходзіліся ў тым ліку беларускія пытаньні.

Працуючы на гэтай пасадзе, Кастравіцкі намагаўся стварыць у Галоўным камандаваньні спрыяльны клімат для перамоў з прадстаўнікамі ПБН, якіх Станкевіч безвынікова дабіваўся ўвесну 1941 г. Нам невядомыя падрабязнасьці, але вядома, што ў выніку Галоўнае камандаваньне зьмяніла сваё стаўленьне да кантактаў з ПБН. Так, калі раней у рапартах агульна гаварылася пра супрацоўніцтва беларусаў зь немцамі, на пачатку 1942 г. у данясеньнях камандзіра ЗУБ—АК Стэфана Равэцкага зьяўляюцца новыя адценьні: ён піша, што сярод беларусаў у Менску расьце антынямецкая апазыцыя, якая шукае кантактаў з палякамі, і нават што беларусы гатовыя падтрымаць польскае паўстаньне, заплянаванае на апошнюю фазу вайны[42].

Пазыцыю Галоўнага камандаваньня выразна акрэсьліў адмысловы рапарт наконт беларускага пытаньня, адасланы Сікорскаму ўвесну 1942 г. У рапарце адзначалася, што сярод беларускіх кіраўнічых колаў і народных масаў расьце вера ў паразу гітлераўскай Нямеччыны, у сувязі з чым:

Некаторыя дзеячы, якія стаяць у апазыцыі да палітыкі Шчорса, шукаюць кантактаў з польскімі групоўкамі, жадаючы паразумецца на грунце супольнай абароны ад Расеі. Гэтыя людзі прагнуць вызваліць усю Беларусь з дапамогай Польшчы і ўтварыць з намі шчыльную фэдэрацыю, аднак высоўваюць максымальныя тэрытарыяльныя прэтэнзіі і вызначаюць будучыя межы Беларусі ад Рослаўля да Белай Падляскай улучна. Праграма нацыяналістаў, якія дзеяць на месцах, зважаючы на імаверную паразу Нямеччыны, зводзіцца да дасягненьня як мага паўнейшага кантролю над краінай у адміністрацыйным, эканамічным і культурным пляне, каб потым паставіць перад адбытымі фактамі будучых заваёўнікаў гэтай тэрыторыі[43].

---

[41] Тамсама.

[42] Armia Krajowa w dokumentach. T. II. Londyn, 1973. S. 193, 331.

[43] Матэрыялы ўсходняй сэкцыі Дэлегатуры, "Спэцыяльны рапарт — беларускае пытаньне". Дакумэнт бяз даты. Як вынікае з фактаў, пададзеных у тэксьце, ён быў складзены ў сакавіку або красавіку 1942 г. ЦА ЦК ПАРП, 20/III–201, k. 105—106a.

Рапарт падкрэсьліў, што, “калі мы пакінем бяз водгуку спробы беларусаў знайсьці кантакт з польскім бокам, новыя саступкі немцаў могуць іх перакрэсьліць”, і прапаноўваў заваяваць сымпатыі беларускіх масаў шляхам:

— выданьня адозвы польскага ўраду да беларусаў пра жыццё абедзьвюх нацыяў пасьля вайны, у якой асабліва падкрэсьліваліся б эканамічныя (зямельная рэформа) і культурныя пытаньні;
— запрашэньня прадстаўнікоў беларускага грамадзтва ў лёнданскую Нацыянальную раду;
— неадкладнага разгортваньня на месцах прапаганды, якая б нэўтралізавала антыпольскія аргумэнты;
— звароту ад імя польскага ўраду да Ватыкану з прапановай прызначыць для этнічна беларускіх рэгіёнаў біскупа беларускай нацыянальнасьці.

Асаблівую ўвагу заслугоўвае пададзеная ў рапарце прапанова “тэрмінова скантактавацца з тымі беларускімі дзяячамі, якія шукаюць падтрымкі ў Польшчы”, а таксама скіраваная да Сікорскага просьба даць інструкцыі па беларускім пытаньні, “цесна зьвязаным з плянаваным паўстаньнем і заняцьцем нашых усходніх земляў, дзе жыве беларускае насельніцтва”[44]. Гэта азначала, што Галоўнае камандаваньне прыняло прапанову Партыі беларускіх нацыяналістаў аб перамовах, але толькі пры захаваньні *status quo* ў тэрытарыяльным пытаньні.

Гэты рапарт трапіў у Лёндан адносна хутка, а вынікам яго было перададзенае тэлеграфам 25 чэрвеня 1942 г. распараджэньне пашырыць дыяпазон узятых з друку і непасрэдна на месцах зьвестак зь Беларусі, а таксама даць падрабязныя зьвесткі аб беларускіх дзяячох. Эміграцыйны ўрад, аднак, устрымаўся ад якой–кольвечы ацэнкі рапарту і ад выданьня інструкцыяў, пра якія прасіла Галоўнае камандаваньне[45]. У гэтай сытуацыі кіраўніцтва АК вырашыла самастойна ажыцьцявіць некаторыя з прапановаў, пра якія ішла гаворка ў вышэйзгаданым рапарце. Адным з такіх крокаў была распачатая ў сярэдзіне 1942 г. прапаганда сярод палякаў і беларусаў з мэтай стварыць настрой узаемнай зычлівасьці, гатоўнасьці да яднаньня і супольных абарончых дзеяньняў. Але гэтая акцыя, якой асабіста цікавіўся Равэцкі, не дасягнула плянаваных вынікаў, а ўлёткі, выдаваныя ў тым ліку і на беларускай мове, траплялі на неўрадлівую глебу[46]. Відаць, гэтая акалічнасьць паскорыла прыняцьце рашэньня аб перамовах з ПБН.

Першая сустрэча адбылася ў канцы ліпеня 1942 г. у Менску, куды накіравалася прадстаўніца Галоўнага камандаваньня Дабрынская (“Эва”). Як вынікае зь яе падрабязнай справаздачы, пасьля яе прыезду і ўсталяваньня кантактаў з Станкевічам ён склікаў паседжаньне Цэнтральнага камітэту Партыі беларускіх нацыяналістаў, які пацьвердзіў імкненьне да супрацоўніцтва з Польшчай, так акрэсьліваючы сваю пазыцыю і патрабаваньні:

— прызнаньне немэтазгодным узброенай барацьбы зь немцамі; да часу стварэньня беларускага войска да іх захоўваецца ўяўная ляяльнасьць;
— стварэньне беларускай дзяржавы з заходняй мяжой уздоўж лініі Керзона*;
— стварэньне пасьля вайны польска–беларускага дзяржаўнага саюзу з супольным міністэрствам замежных справаў;
— рэпрэзэнтацыя польскім урадам беларускага пытаньня перад урадам Вялікай Брытаніі;
— адмова палякаў ад імкненьня апанаваць адміністрацыю ў Заходняй Беларусі пры адначасовым спыненьні беларусамі антыпольскага руху[47].

---

[44] Тамсама.
[45] Урадовая тэлеграма. ЦА ПАРП 202/1–2, k. 23.
[46] Polskie Siły Zbrojne w drugiej wojnie światowej. T. III. Londyn, 1950. S. 287.
* “Лініяй Керзона” называлася лінія, якая была прапанаваная міністрам замежных справаў Вялікай Брытаніі Джорджам Натаніэлем Керзонам (1859—1925) і вызначаная ў сьнежні 1919 г. Вярхоўнай радай Антанты ў якасьці ўсходняй мяжы Польшчы (прыблізна Горадня—Берасьце — на ўсход ад Перамышля і да Карпат). Амаль адпавядае сучаснай беларуска–польскай мяжы зь невялікімі адхіленьнямі на карысьць Польшчы. — *А.П.*
[47] Справаздача “Эвы” з падарожжа ў Менск… К. 17—23.

Вызначаючы сваё стаўленьне да часткі высунутых патрабаваньняў, Дабрынская заявіла, што хаця польскія ўлады маюць жаданьне супрацоўнічаць з ПБН, але па прынцыповых меркаваньнях яны не адступяцца ад Рыскай мяжы. Станкевіч, відаць, прадбачыў такі адказ польскага боку і прапанаваў лічыць спрэчныя тэрытарыяльныя праблемы адкрытым пытаньнем, што магло б паспрыяць прагрэсу ў абмеркаваньні ўсёй сукупнасьці ўзаемадачыненьняў. Дамоўленасьці з палякамі Цэнтральны камітэт ПБН хацеў захаваць у таямніцы ня толькі ад немцаў, але і ад большасьці чальцоў сваёй партыі, матывуючы гэта тым, што ў беларускім грамадзтве існуе падазронасьць і нядобразычлівасьць да Польшчы. Канстатацыя цяжкасьцяў і разыходжаньняў па пэўных праблемах не разбурыла, аднак, двухбаковых надзеяў на паразуменьне, вынікам чаго стала запрашэньне Станкевіча ў Варшаву для працягу перамоў[48].

Перамовы, распачатыя паміж Галоўным камандаваньнем АК і Партыяй беларускіх нацыяналістаў, выклікалі незадавальненьне Дэлегатуры эміграцыйнага ўраду. Як сьведчаць зацемкі, пробленыя на палёх справаздачы "Эвы", пазыцыя БНП ацэньвалася там як двурушніцкая палітыка гульні на каньюнктуры, а прапанова аб супрацоўніцтве, дадзеная ў Менску прадстаўніцай Галоўнага камандаваньня, прызнавалася незаконнай. Пры гэтым Дэлегатура ўраду ніяк не акрэсьліла свайго стаўленьня да патрабаваньняў беларускага боку, заўважыўшы, што спачатку ПБН павінна падтрымаць супольную ўзброеную барацьбу супраць Нямеччыны, а ўжо потым весьці гаворку пра нейкія магчымыя дамоўленасьці. Аднак у чарговай справаздачы Дэлегатуры ўраду пра гэтае жаданьне ўжо не было ні слова, затое ПБН паддавалася рэзкім нападкам, маўляў, яе арыентацыя на заходніх саюзьнікаў — гэта "толькі тэорыя", што хаця партыя сапраўды антынямецкая, але яе чальцы супрацоўнічаюць зь немцамі, а яе дзейнасьць "абмяжоўваецца цяпер вынішчэньнем польскасьці рукамі акупанта"[49]. Як бачым, Дэлегатура была катэгарычна супраць стасункаў зь беларускім падпольлем і, відаць, намагалася такім чынам паўплываць на пазыцыю Сікорскага, які абяцаў у найбліжэйшым часе выслаць інструкцыі наконт беларускага пытаньня[50].

Неўзабаве ў Варшаве стаўленьне да ПБН троху палепшылася. У значнай ступені гэта было выклікана зьменай на пасадзе дэлегата ўраду, якую пасьля сьмерці Ратайскага ў верасьні 1942 г. заняў прадстаўнік Сялянскай партыі Пекалкевіч, які быў больш прыхільны да паразуменьня зь беларусамі, чымся ягоны папярэднік. Таму старшыня ЦК ПБН Станкевіч ("Гжацкі"), які прыехаў у Варшаву ў канцы сьнежня, безь вялікіх цяжкасьцяў дамовіўся з Тамкевічам ("Кшыштафам") правесьці 26—28 студзеня 1943 г. канфэрэнцыю па пытаньнях супрацоўніцтва, у тым ліку з удзелам сяброў Дэлегатуры ўраду. У міжчасьсі ён выехаў у Прагу і Кракаў. Інфармуючы пра сваю сустрэчу з Станкевічам, Тамкевіч зьвяртаў увагу кіраўніцтва, што ПБН праз сваё віленскае аддзяленьне здолела дамовіцца зь літоўцамі, мае шчыльныя кантакты з чэхамі і вельмі разьлічвае на іхную дыпляматычную дапамогу, а таксама намагаецца паразумецца з украінцамі[51].

Цяжка сказаць, у якой ступені гэтая інфармацыя адпавядала сапраўднасьці, а ў якой была разьлічаная на ўмацаваньне стартавай пазыцыі ПБН на будучай канфэрэнцыі. Але факт, што гэтай інфармацыі быў нададзены афіцыйны характар. Паводле справаздачы Дабрынскай — адной з арганізатараў і ўдзельнікаў канфэрэнцыі, — у ёй бралі ўдзел Макавецкі і Тамкевіч з Галоўнага камандаваньня АК, а таксама сябры Дэлегатуры ўраду і палітычных партыяў — сацыялісты і дзеячы Сялянскай партыі[52]. Як можна ба-

[48] Тамсама. К. 21.

[49] Урадавая пошта: нацыянальныя справы за пэрыяд 15.07.1942—15.09.1942. ЦА ПАРП 202/I–31, k. 94—95.

[50] Тэлеграма Сікорскага ад 05/06.08.1942. ЦА ПАРП 202/I–9, k. 4.

[51] Рапарт "Кшыштафа" пра размову з "Гжацкім" ад 21.12.1942. ЦА ПАРП, 203/VII–, k. 6.

[52] Паведамленьні З. Дабрынскай 1979—1980 г. Паводле іх, размовы адбываліся на канспірацыйнай кватэры БІПу па вул. Ракавецкай.

чыць з ужо згаданага рапарту Тамкевіча (“Кшыштафа”) ад 21 сьнежня, Станкевіч хацеў абмеркаваць пытаньне аб незалежнасьці беларускай дзяржавы, якая б “у той ці іншай ступені абапіралася на Польшчу”, а таксама аб выданьні польскім урадам дэклярацыі пра неабходнасьць стварэньня такой дзяржавы. Ён і надалей ня бачыў патрэбы рыхтаваць антынямецкае збройнае паўстаньне, затое пагаджаўся распачаць прапагандысцкую кампанію на карысьць збліжэньня з Польшчай.

Згодна зь сьведчаньнем Дабрынскай, у бурлівай дыскусіі дамінавала, аднак, тэрытарыяльная праблема, прычым ніводзін з бакоў не схінаўся да рэвізіі сваёй дагэтулешняй пазыцыі. Можна здагадвацца, што ў такой сытуацыі не прайшла і прапанова пакінуць праблему мяжы ў якасьці адкрытага пытаньня, у выніку чаго дыскусія над асноўнымі патрабаваньнямі ПБН рабілася беспрадметнай. Адначасова польскі бок настойваў, каб беларусы абавязкова далучыліся да супольнай антынямецкай вайсковай кампаніі, на што Станкевіч у рэшце рэшт пагадзіўся. Удзел ПБН у гэтай акцыі пакуль меўся выражацца ў арганізацыі на Беларусі сеткі базаў для Арміі Краёвай. Такім чынам, абмежаванае вайсковае супрацоўніцтва было адзіным пытаньнем, якое ўдалося ўзгадніць на Варшаўскай канфэрэнцыі. Аднак абодва бакі зьвязвалі з гэтым розныя пляны. Станкевіч бачыў тут магчымасьць падтрымліваць кантакт з польскім падпольлем — спадзеючыся, што польскі ўрад прызнае незалежніцкія памкненьні беларусаў. Польскі бок, у сваю чаргу, спадзяваўся, што ПБН падтрымае пазыцыі польскага ўраду ў пытаньні ўсходняй мяжы. На думку палякаў, пасьля разгрому немцаў пад Сталінградам пазыцыя польскага боку была больш рэальнай, чым канцэпцыя беларускіх нацыяналістаў.

Пра гэта сьведчыць наступная дэпэша Пекалкевіча аб канфэрэнцыі з Станкевічам, накіраваная ўраду 12 лютага 1943 г.:

> Адбылася размова з старшынём беларускай незалежніцкай арганізацыі, які вярнуўся з Прагі. Ён хоча супрацоўнічаць з намі, але жадае, каб былі фармальна замацаваныя правы, якія беларусы атрымаюць у Польшчы. Мы вылучылі прапанову аб роўных правах беларускай і польскай моў у судах першай інстанцыі, у староствах і мясцовым самакіраваньні, а таксама аб пачатковых і сярэдніх беларускіх школах. <...> Прашу вашых інструкцыяў наконт беларускага пытаньня[53].

Такім чынам, Паўнамоцны прадстаўнік ураду нават не назваў праблемы, якія цікавілі кіраўніцтва ПБН, а замест таго сфармуляваў пытаньні чыста ўнутрыдзяржаўнага характару.

Падобным чынам паводзіла сябе і Галоўнае камандаваньне АК.

Вось што пісаў Равэцкі ў Лёндан:

> Для польскай палітыкі было б вельмі карысна аб’яднаць беларусаў і ўкраінцаў. Гэта магло б <...> забясьпечыць нам падтрымку англасаксаў у памянёным пытаньні (аб усходніх тэрыторыях. — *Ю.Т.*) і ўскладніць гульню расейцам. Каб дасягнуць такой мэты, неабходна мець выразную дэклярацыю пра зраўнаваньне ў правох гэтых меншасьцяў і пра забесьпячэньне ім магчымасьці культурнага разьвіцьця. Але абмежавацца аднымі абяцаньнямі будзе мала, трэба будзе выдаць адпаведныя дэкрэты і распараджэньні. Калі мы ўтрымаем усходнія землі, то гэтыя акты і так будуць неабходныя, а калі не — дык ня змогуць зашкодзіць[54].

Вызначыць правы беларусаў і ўкраінцаў патрабавала ад ураду таксама рэзалюцыя Палітычнага пагаджальнага камітэту, прынятая 14 лютага 1943 г. галасамі прадстаўнікоў сялянскай партыі, сацыялістаў і старшыні насуперак галасом Нацыянальнай партыі і Партыі працы[55]. Аднак урад не зьмяняў сваёй ранейшай пазыцыі ў гэтым пытаньні. Яе

[53] Тэлеграмы ва ўрад. ЦА ПАРП, 202/I–7, k. 11.

[54] Тэлеграма Равэцкага да Сікорскага ад 12.01.1943 // Armia Krajowa w dokumentach. T. II… S. 403.

[55] Тэлеграма Дэлегата ўва ўрад ад 18.02.1943. ЦА ПАРП, 202/і–34, k.12.

выразіў прэзыдэнт Польшчы Рачкевіч у сваёй навагодняй прамове:

> Адзіным рэальным і найтрывалейшым апірышчам польскай дзяржавы на ўсходніх землях ёсьць перш за ўсё карэнны польскі нацыянальны элемэнт. <...> Першай і галоўнай задачай нашай палітыкі на ўсходніх землях мусіць быць узмацненьне польскага элемэнту, на які павінна абаперціся ўся палітычная лінія ў дачыненьні да тамтэйшых нацыянальных меншасьцяў[56].

Тэндэнцыі да паразуменьня назіраліся ў Дэлегатуры толькі ў пару пяцімесячнага старшынёўства Пекалкевіча. Пасьля ягонага арышту 19 лютага 1943 г. і прызначэньня чарговым Паўнамоцным прадстаўніком ураду сябра Партыі працы Янкоўскага адбыўся паварот да ранейшага курсу, абумоўленага поглядамі Нацыянальнай партыі і Партыі працы. Істотна паўплывала на радыкалізацыю пазыцыі Дэлегатуры скасаваньне ў красавіку 1943 г. дыпляматычных стасункаў СССР з польскім урадам, у выніку чаго перасталі дзейнічаць ранейшыя тактычныя рэзоны ў фармуляваньні канцэпцыі ўсходняй палітыкі. Так, у дасланых у ліпені ў Лёндан “Заўвагах аб нашай міжнароднай палітыцы” Дэлегатура намаўляла затрымаць Чырвоную Армію на мяжы паводле Рыскага трактату і нават адсунуць гэтую мяжу далей на ўсход, далучыўшы да Польшчы Менск і Камянец–Падольскі ў якасьці ваеннай кампэнсацыі[57].

Пры такім раскладзе плянаў беларускае пытаньне чыста зьнікала з поля зроку Дэлегатуры. “Беларускі народ, — сьцьвярджала яна сьледам за Нацыянальнай партыяй, — ажно да цяперашняй вайны не стварыў ані на нашай, ані на савецкай тэрыторыі нічога накшталт уласнае культуры, традыцыяў, літаратуры, ані эліты, здольнай кіраваць дзяржавай і вызначаць лёс сваёй нацыі”, у сувязі з чым Дэлегатура ня бачыла падставаў для стварэньня буфэрнай дзяржавы і выказвалася за поўную палянізацыю беларускіх крэсаў зь Меншчынай улучна[58].

На пачатку 1943 г. Іваноўскі апынуўся ў тупіку. Нарэшце ён мог усьвядоміць: разьлік на тое, што Польшча падтрымае беларускую дзяржаўнасьць, быў абсалютна памылковы. Пра гэта сьведчыла інфармацыя, атрыманая ад Станкевіча і Кастравіцкага, у гэтым пераконвала навагодняя прамова прэзыдэнта Рачкевіча. Польшча не хацела Беларусі. Усе яго неверагодныя намаганьні, якія схілілі кіраўніцтва польскага падпольля да перамоў, пайшлі марна: яны не далі нічога, хіба што засьведчылі намеры беларусаў. Непатрэбная аказалася і сыстэма сувязі з Варшавай, якая распальвала фантазію пільных даносчыкаў[59].

Можна, аднак, думаць, што, нягледзячы на непрыхільнае стаўленьне Варшавы і Лёндану, Іваноўскі і на гэты раз не адмовіўся ад канцэпцыі беларуска–польскай фэдэрацыі, да якой яго падштурхнула ў 1919 г. пазыцыя Леніна. І хаця ён сапраўды ня бачыў аніякай магчымасьці рэалізаваць сваю ідэю падчас гэтай вайны, але таксама ня бачыў аніякай альтэрнатывы ёй у будучыні. Гэтыя ягоныя перакананьні замацоўваліся вынікамі савецкай нацыянальнай палітыкі, зь якімі ён штодня сутыкаўся ў Менску. Акурат з гэтай прычыны Іваноўскі не лічыў магчымым вырашыць праблему беларускай дзяржаўнасьці ў межах СССР і адхіляў неаднаразовыя прапановы супрацоўнічаць з савецкім падпольлем[60].

---

[56] Mowa prezydenta Rzeczypospolitej // Wschód. 25.01.1943.

[57] Uwagi o naszej polityce międzynarodowej. ЦА ПАРП, 202/I–34, k. 57—60.

[58] Тамсама.

[59] У гэты час быў арыштаваны В. Буткевіч. У даносе ён быў абвінавачаны ў тым, што ён не беларус, а паляк і вядзе ў Менску дывэрсійную працу. В. Іваноўскі выкарыстаў свае магчымасьці, каб вызваліць яго з турмы — прывёз зь Ліды дакумэнты, якія пацьвярджалі, што Буткевіч — сапраўдны беларус, і асабіста за яго паручыўся. Іваноўскі адчуваў сваю маральную адказнасьць за Буткевіча, якога прыняў на працу ў гарадзкую ўправу.

[60] Новікаў І. Выбраныя творы. Т. III. Мінск, 1988. С. 12.

Верагодна, яго ня дужа ўзрушыла параза нямецкіх войскаў пад Сталінградам — Іваноўскі даўно ня верыў у перамогу над Расеяй і таму не разьлічваў на аднаўленьне беларускай дзяржавы з дапамогай Нямеччыны. Тым больш ня мог ён разьлічваць на гэта на пачатку 1943 г., калі пачалося масавае адступленьне войскаў Вэрмахту на Ўсходнім фронце. Такім чынам, сытуацыя была безнадзейная. У гэты момант Іваноўскі мог толькі ці адмовіцца ад палітычнага жыцьця і зьехаць зь Менску, ці аддацца на волю лёсу. Ён выбраў апошняе, спадзеючыся на ўзмацненьне нацыянальных сілаў у выніку палітыкі Кубэ.

Разьвіцьцё падзеяў у Беларусі ставіла, аднак, гэтыя спадзяваньні пад вялікі пытальнік. Пашыралася дзейнасьць савецкіх партызанаў, якімі кіравалі і якіх падтрымлівалі з–за лініі фронту. Партызанка правакавала ўзмацненьне карных паліцыйных акцыяў, якія суправаджаліся спальваньнем вёсак, вынішчэньнем альбо дэпартацыяй жыхароў, падазраваных у дапамозе партызанам, і іншымі злачынствамі. Падчас такіх акцыяў загінула каля 100 тыс. жыхароў беларускіх вёсак, збольшага старых, жанчын і дзяцей.

Кубэ разумеў, што злачынствы супраць мірных жыхароў з боку СС і паліцыі падчас карных апэрацыяў перакрэсьліваюць усю ягоную палітыку, разьлічаную на заваёву сымпатыяў насельніцтва. З гэтай прычыны, а таксама з гуманістычных пабуджэньняў ён распачаў барацьбу з СС, абараняючы нявінных людзей. Ня маючы права аддаваць загады паліцыйным уладам, Кубэ выкрываў злачынствы карных аддзелаў, інфармаваў пра іх вышэйшае кіраўніцтва ў Бэрліне і разьлічваў, што ягонае заступніцтва прынясе плён. На гэтай глебе разгарэўся востры канфлікт, і кіраўніцтва СС паспрабавала выжыць Кубэ зь Менску.

У сьнежні 1942 г. паліцыйныя ўлады ў Бэрліне і Менску распачалі кампанію, накіраваную на палітычную дыскрэдытацыю Кубэ як ініцыятара "супярэчных" інтарэсам Нямеччыны беларускіх нацыянальных тэндэнцыяў. У першую чаргу пачалі распрацоўваць кіраўніцтва БНС і зьбіраць довады яго "злачыннай дзейнасьці". Галоўны ўдар прыйшоўся па Ермачэнку, супраць якога высунулі найцяжэйшае абвінавачаньне ў дзяржаўнай здрадзе. Кубэ, аднак, абараняў Ермачэнку, а разам зь ім і прынцыпы сваёй палітыкі, якая пакрывалася рашэньнямі нямецкіх вышэйшых цывільных уладаў. Таму сьледзтва было вымушана заняцца гаспадарчай дзейнасьцю БНС, дзе яно выкрыла злоўжываньні. Ермачэнка быў вымушаны сысьці з пасады і 27 красавіка 1943 г. пакінуў Менск.

Ратуючы Ермачэнку, Кубэ абараніў сваю асабістую пазыцыю, але заплаціў за гэта разбурэньнем усяго мэханізму палітычнай дзейнасьці, які ён пасьлядоўна ствараў зь верасьня 1941 г. Пад націскам паліцыйных уладаў увесну 1943 г. былі зьліквідаваныя ўсе не прадугледжаныя статутам БНС структуры, у тым ліку і Галоўная рада. Была дазволена толькі дзейнасьць у галіне сацыяльнага забесьпячэньня і аховы здароўя. Спыніў сваё існаваньне таксама інстытут мужоў даверу БНС, а ў красавіку 1943 г. была распушчана Беларуская самаахова. У гэтай атмасфэры быў арыштаваны і закатаваны ксёндз В. Гадлеўскі. У сваю чаргу В. Іваноўскага зноў абвінавацілі ў патураньні прапольскім элемэнтам і меркавалі сьпіхнуць яго з пасады бурмістра. Яго ўратавала толькі тое, што СД не знайшло довадаў яго сувязі зь Ермачэнкам[61]. Пэўна, і на гэты раз не абышлося без дапамогі Кубэ.

Атакі паліцыйнай апазыцыі, якія каардынаваў прызначаны Гімлерам кіраўнік СС і паліцыі ў Беларусі брыгадэнфюрэр Курт фон Готбэрг, не ўстрымалі Кубэ адмовіцца ад працягу пазытыўнай беларускай палітыкі, якую натхняў і падтрымліваў Іваноўскі. Але на гэты раз Кубэ дзейнічаў больш асьцярожна і ўсе важнейшыя ініцыятывы ўзгадняў з бэрлінскім міністэрствам акупаваных усходніх абшараў.

Так, у сакавіку 1943 г. Кубэ выдаў распараджэньне аб ліквідацыі зямельнай цераспалосіцы з мэтай стварэньня рацыянальных, з эканамічнага гледзішча, гаспадарак. Рэ-

---

*Кс. Вінцэнт Гадлеўскі ў дзень арышту — 24 сьнежня 1942 г. — забіты ўва ўрочышчы Благаўшчына непадалёк ад Трасьцянца. — *А.С.*

[61] Ліст д–ра Крафта з Бэрліна ад 12.12.1942. AAN. Александрыйскі мікрафільм, T–454, р. 21/1283.

форма пачала ажыцьцяўляцца. Посьпехам скончыліся ягоныя намаганьні адчыніць Мэдыцынскі інстытут — першую вышэйшую навучальную ўстанову ў Беларусі, створаную пад нямецкай акупацыяй. У чэрвені быў арганізаваны Саюз беларускай моладзі, а таксама Беларускае навуковае таварыства з Іваноўскім на чале. Разам з Мэдыцынскім інстытутам яно стварала кадравую аснову і фармальны прэцэдэнт для адкрыцьця ўнівэрсытэту і тэхналягічнага інстытуту ў Менску, чаго ўвесь час дабіваўся Іваноўскі.

Выдаленьне Ермачэнкі і абмежаваньне кампэтэнцыі БНС перакрэсьлілі надзеі Кубэ стварыць на базе гэтай арганізацыі цэнтральны орган беларускага самакіраваньня. Ён не адмовіўся ад гэтай задумы, але дзеля супраціву Гітлера яго рэалізацыя стала амаль безнадзейнай. Таму, атрымаўшы згоду Розэнбэрга, 27 чэрвеня 1943 г. Кубэ ўтварыў Камітэт даверу ў якасьці інтэгральнай часткі апарату генэральнага камісара, што ахоўвала яго ад лёсу кіраўніцтва БНС. Камітэт даверу разглядаўся як сымбалічнае пакуль беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва, якое ў спрыяльных умовах магло з санкцыі Бэрліна пераўтварыцца ў самастойны орган.

Камітэт даверу (больш вядомы пад назвай Рада даверу) складаўся з 16 чалавек, ніводзін зь якіх не ўваходзіў у ранейшую каманду Ермачэнкі. Гэта, безумоўна, таксама было зроблена з мэтай абараніць яго ад нападак эсэсаўскай апазыцыі. Старшынём Камітэту Кубэ прызначыў Вацлава Іваноўскага, але, паколькі за ім цягнуўся цень даносаў яго палітычных праціўнікаў і недаверу паліцыі, функцыю старшыні даручыў яму часова: тэрмінам на адзін год. Такім парадкам Кубэ, відаць, падстрахоўваўся ад магчымых неспадзяванак.

Выступаючы з нагоды скліканьня Камітэту даверу, Кубэ паўтарыў сваю тэзу, што “мы прыйшлі сюды як пераможцы, але пераможцы бальшавізму, а не беларусаў, для якіх мы вызваліцелі”, і заклікаў Камітэт так арганізаваць беларускую нацыю, “каб яна была на ўзроўні эўрапейскіх нацыяў”. Прадметам асаблівай увагі Камітэту ён назваў тры задачы: разьвіцьцё школьніцтва і выхаваньне моладзі; аднаўленьне эканомікі і забесьпячэньне насельніцтва харчаваньнем; і, урэшце, дапамогу ў барацьбе з партызанамі[62]. У гэтых справах Камітэт абавязаны быў выпрацаваць прапановы, якія падлягалі абмеркаваньню на супольным паседжаньні зь нямецкімі ўладамі.

Гэтае паседжаньне — першае і апошняе — адбылося 23 жніўня 1943 г. з удзелам чальцоў Камітэту, Кубэ і іншых вышэйшых функцыянэраў генэральнага камісарыяту, а таксама афіцэраў СС і паліцыі на чале з Готбэргам. Як пісаў Аўген Калубовіч, былы сябра Камітэту даверу і ўдзельнік паседжаньня, разглядаліся тры пытаньні: рэпрыватызацыя нерухомасьці, пытаньне школьніцтва і мэтады барацьбы з партызанамі.

Па першым пытаньні выступаў Іваноўскі. Ён запатрабаваў у інтарэсах аднаўленьня беларускай эканомікі вярнуць былым уладальнікам нерухомасьць, нацыяналізаваную савецкай уладай. Калубовіч быў дакладчыкам у пытаньні аб школьніцтве, просячы дазволіць адкрыцьцё ўнівэрсытэту, не чыніць перашкодаў у стварэньні сярэдніх школаў і паскорыць выданьне школьных падручнікаў. Абодва гэтыя пытаньні ня выклікалі асаблівых пярэчаньняў і былі прынятыя да выкананьня.

Па трэцім пытаньні выступаў Аляксандар Русак. Ён падаў сабраныя Камітэтам даверу довады злачынстваў паліцыйных аддзелаў у часе антыпартызанскіх карных акцыяў. Выражаючы пратэст Камітэту супраць такіх мэтадаў, ён выклаў наступныя прапановы: а) спыніць спальваньне вёсак і рэпрэсіі супраць нявіннага насельніцтва; б) стварыць умовы і рэальныя гарантыі бясьпекі для людзей, якія б вярнуліся зь лясоў дадому; в) стварыць нямецка–беларускую камісію, якой даручыць распрацаваць адпаведныя рэкамэндацыі па гэтых пытаньнях і ажыцьцявіць кантроль іх выкананьня.

Паводле Калубовіча, выкладзеная Русаком пазыцыя Рады даверу выклікала абурэньне прысутных афіцэраў СС і паліцыі.

[62] Беларуская Газэта. 1943. 3 ліпеня.

Аўген Калубовіч пісаў:

Аднак мы былі зьдзіўленыя, калі Кубэ … пачаў перад Радай даверу апраўдвацца, заявіўшы, што ён у гэтым не вінаваты, што гэта робяць незалежныя ад яго СД і вайсковыя групы і што ён сам быццам бы скардзіўся на іх у Бэрлін. Нашыя пабойваньні арышту Рады даверу ня спраўдзіліся. Праф. Іваноўскаму не прыйшлося чытаць Дэклярацыі незалежнасьці, якая ляжала ў нутраной кішэні ягонага пінжака (яна была падрыхтаваная на выпадак арышту Камітэту. — *Ю.Т.*). Але даўжэйшы час нас не пакідала думка, што немцы яшчэ могуць з намі расправіцца. Мы не выключалі таксама мажлівасьці, што органы СД і СС не даруюць таксама і В. Кубэ[63].

Страхі чальцоў Камітэту не былі беспадстаўныя. Пасьля безвыніковых спробаў выдаліць Кубэ зь Менску, у якіх бралі ўдзел найвышэйшыя, аж да самога Гімлера, прадстаўнікі СС, 22 чэрвеня ў менскім тэатры на яго быў арганізаваны замах. Міна пад сцэнай павінна была выбухнуць, калі Кубэ выступаў з урачыстай прамовай з нагоды ўтварэньня Саюзу беларускай моладзі. Але выбух адбыўся пазьней, у часе спэктаклю, на якім Кубэ ўжо не прысутнічаў. Загінула 13 чалавек і некалькі дзясяткаў было паранена. Прамаўляючы над брацкай магілай, Іваноўскі не паўтараў газэтных "сэнсацыяў" пра бальшавіцкіх агентаў, а пасьля паховінаў у вузейшым коле сказаў: "Дзякуем і за вызваленьне, і за гэтыя вось ахвяры"[64].

Затое наступны замах на Кубэ, у ноч з 21 на 22 верасьня, быў удалы і які гэтым разам пацьвердзіў прадбачаньні чальцоў Камітэту. Для Іваноўскага гэта быў шок. Надыходзіў канец эпохі, якая, нягледзячы на цяжкасьці ваеннага часу, стварала сэнс дзеяньня ўва ўмовах акупацыі. Кубэ быў адзіным уплывовым нямецкім палітыкам, які паважаў і падтрымліваў беларускую нацыянальную справу, бачачы ў пэрспэктыве яе вырашэньне ў выглядзе беларускай дзяржавы пад пратэктаратам нямецкага райху. І хаця ваенная сытуацыя перакрэсьлівала гэтую пэрспэктыву, пазыцыя Кубэ ішла насустрач спадзяваньням беларускіх нацыянальных колаў і рабіла магчымым дасягненьне вынікаў, якія ў будучыні маглі б выступаць у якасьці гістарычных аргумэнтаў. Асаблівае значэньне мела маштабнае разьвіцьцё нацыянальнай сьвядомасьці, да нядаўняга часу блякаванай і нішчанай савецкімі ды польскімі ўладамі.

Такая ацэнка Іваноўскім дзейнасьці Кубэ ўтрымлівалася ў заяве Камітэту даверу, зробленай пасьля сьмерці генэральнага камісара. Заява заслугоўвае ўвагі яшчэ й таму, што чальцы Камітэту паўстрымаліся назваць выканаўцаў замаху "маскоўскімі агентамі". Вось яе зьмест:

22 верасьня памёр ад рукі баязьлівага злачынцы генэральны камісар Беларусі, гаўляйтэр Вільгельм Кубэ. Вестку аб гэтай трагічнай сьмерці беларусы прынялі з найглыбейшым абурэньнем. У асобе Нябожчыка беларускі народ траціць свайго найлепшага сябра і змагара за інтарэсы Беларусі. Беларусы верылі і адчувалі, што іх жаданьні будуць зьдзейсьненыя генэральным камісарам Кубэ. Жыцьцё і дзейнасьць гэтага дзяржаўнага мужа стала перашкодаю нашым ворагам. Таму яны стараліся яго прыбраць. У сувязі з трагічнай сьмерцю гэтага чалавека беларускі Камітэт Даверу выказвае ад імя беларускага народу самае глыбокае спачуваньне нямецкаму народу і ўраду Нямецкага райху[65].

Адразу пасьля забойства Кубэ, раніцай 22 верасьня, чальцы Камітэту даверу Вацлаў

[63] Нарыс А. Калубовіча для аўтара ад 14.03.1979, часткова апублікаваны ў "Беларускай Думцы" (1983. № 27—28).

[64] Беларуская Газэта. 1943. 30 красавіка (прамова); інфармацыя Антона Адамовіча для аўтара ад 18.04.1985. "Вызваленьне" ў дадзеным выпадку — угодкі пачатку нямецка–савецкай вайны.

[65] Deutsche Zeitung im Ostland. 23.09.1943.

Іваноўскі, Юры Сабалеўскі, Аўген Калубовіч і Міхась Ганько накіраваліся да начальніка палітычнага аддзелу генэральнага камісарыяту, д–ра Маркуса з просьбай не ўчыняць рэпрэсіяў супраць жыхароў Менску за сьмерць Кубэ. Як пісаў Калубовіч, просьба была выканана і ніхто не пацярпеў[66].

У сувязі з пахаваньнем Кубэ 24 верасьня ў Бэрлін выехала дэлегацыя Камітэту (Іваноўскі, Сабалеўскі, Калубовіч). Назаўтра дэлегацыя нанесла візыт пастаяннаму намесьніку міністра акупаваных усходніх абшараў, Альфрэду Маеру, і выклала яму свае патрабаваньні, што датычылі эканомікі, школьніцтва, самакіраваньня і аб’яднаньня ўсіх беларускіх земляў. Маер паставіўся да гэтага прыхільна, абяцаў разгледзець патрабаваньні Камітэту і прыслаць адказ у Менск. Неўзабаве, пасьля кароткага перабываньня ў Вене, дэлегацыя вярнулася ў Менск[67].

У той дзень, калі Іваноўскі размаўляў з Маерам, Чырвоная Армія заняла Смаленск, а назаўтра — Хоцімск, першы раённы цэнтар на тэрыторыі Беларусі. Такім чынам, гэта была апошняя спроба Іваноўскага стварыць “гістарычныя аргумэнты”. Ён ня мог болей разьлічваць на што–небудзь і не разьлічваў. Пасьля сьмерці Кубэ Іваноўскі меў дачыненьне зь ягоным пераемнікам — начальнікам СС і паліцыі фон Готбэргам, які глядзеў на беларускае пытаньне як на выдумку салённых палітыкаў і не цікавіўся нічым, апроч бясьпекі ў тылавых рэгіёнах ды іхнай эканамічнай эксплюатацыяй. Быў ён, зрэшты, рэалістам і, рыхтуючыся да хуткай эвакуацыі зь Менску, пачаў мінаваць найважнейшыя аб’екты.

У гэтай сытуацыі Камітэт даверу не выяўляў ужо ніякай актыўнасьці, і Готбэрг зьбіраўся яго распусьціць. Нежаданьне Готбэрга рабіць стаўкі на беларускую карту паглыблялася ягоным стаўленьнем да Іваноўскага: Готбэрг не забыў жнівеньскага паседжаньня і пратэст Камітэту супраць барбарскіх карных мэтадаў СС. Затое ніхто больш не абвінавачваў Іваноўскага ў патураньні польскім элемэнтам: увосень 1943 г. сам Готбэрг пачаў заігрываць з акоўскімі аддзеламі на Беларусі, спадзеючыся, што тыя дапамогуць яму адолець савецкіх партызанаў. Таму ён неяк выносіў Іваноўскага — бо ён мог яго лёгка адхіліць з пасады старшыні Камітэту даверу ці бурмістра Менску ды нават і арыштаваць зь якой–небудзь надуманай зачэпкі.

Сьмерць Кубэ мела яшчэ адно наступства: яна дазволіла Астроўскаму вярнуцца ў Менск. Пасьля канфлікту зь Ермачэнкам ён два гады правёў у Смаленску, працаваў там у мясцовай адміністрацыі, супрацоўнічаючы з штабам фэльдмаршала Клюге, камандзіра цэнтральнага ўчастку фронту і смаленскай службы бясьпекі (СД). Шукаючы магчымасьці адыграць галоўную ролю ў Беларусі, Астроўскі таксама зьвяртаўся па дапамогу да кіраўніцтва польскага падпольля. У кастрычніку 1942 г. ён прыехаў у Варшаву і скантактаваўся з Тамкевічам (“Кшыштафам”) зь БІПу, прапануючы яму арганізаваць перамовы аб польска–беларускім супрацоўніцтве. Аднак прапанову Астроўскага ў Варшаве праігнаравалі.

Пасьля эвакуацыі з Смаленску ён кароткі час знаходзіўся ў Магілёве і толькі пасьля замаху на Кубэ, у канцы верасьня ці на пачатку кастрычніка 1943 г., вярнуўся пакуль у Баранавічы, куды эвакуаваўся штаб Клюге. А ў Менску разьмясьцілася смаленская СД. Падтрымліваючы кантакты з вайсковымі і паліцыйнымі ўладамі, Астроўскі разьлічваў на іх рэкамэндацыі і падтрымку з боку Готбэрга.

Намаганьні Астроўскага, якому пасярэднічала смаленская СД, пераканалі Готбэрга ў мэтазгоднасьці стварыць беларускі прадстаўнічы орган, які ў бягучай партызанскай вайне можна было б выкарыстаць у якасьці эфэктыўнага сродку прапаганды. Камітэт даверу не надаваўся да гэтай мэты як з прычыны ягонага фармальнага статусу (Камітэт дзейнічаў на прынцыпах камісіі генэральнага камісарыяту, г.зн. нямецкай інстытуцыі), так і дзеля нежаданьня Іваноўскага адыгрываць такую ролю. Аднак бяз згоды Гітлера склікаць

[66] Нарыс А. Калубовіча для аўтара ад 14.03.1979.
[67] Тамсама.

фармальны прадстаўнічы орган было немагчыма. І, каб абысьці гэтую перашкоду, Готбэрг пагадзіўся "актывізаваць" існуючы Камітэт даверу, што не вымагала адмысловых юрыдычных актаў.

Аднак кадравае пытаньне зацягвала ўсю справу. Разьлічваць на прызначэньне Р. Астроўскага старшынём "актывізаванага" Камітэту было нельга, пакуль гэтую пасаду займаў В. Іваноўскі. У гэтай сытуацыі агенты Астроўскага пачалі рыхтаваць замах, магчыма, без актыўнага ўдзелу паліцыі, але зь яе ведама і згоды. Пра гэта сьведчыць выступ Готбэрга на канфэрэнцыі ў міністэрстве акупаваных усходніх абшараў 22 лістапада 1943 г., падчас якога ён асабліва падкрэсьліў, што замах будзе выкананы рукамі самых беларусаў[68].

Падкідаючы сьпярша ананімныя цыдулкі з пагрозамі ў дом Іваноўскага на вуліцы Ратамскай, дзе ён разам з дачкой Ганнай жыў з восені 1942 г., арганізатары замаху плянавалі прымусіць яго выехаць зь Менску[69]. Пра магчымы замах папярэджвалі яго таксама супрацоўнікі беларускай паліцыі. Аднак Іваноўскі не пакінуў Менску, хаця небясьпекі ігнараваць ня мог: ён зрабіўся нэрвовы, падазроны, шукаў міны ў падмурку дому. Урэшце 6 сьнежня, калі ён у пралётцы вяртаўся дадому з гарадзкой управы, на яго напалі два чалавекі і колькі разоў стрэлілі зь пісталета. Іваноўскага адразу ж прывезьлі ў больніцу, дзе ён і памёр на наступны дзень, 7 сьнежня 1943 г.

Факт, што Готбэрг ужо ў канцы лістапада ведаў пра падрыхтоўку замаху, дапамагае разгадаць пытаньне аб яго ініцыятарах, у параўнаньні зь якім дэталі самой апэрацыі падаюцца менш важнымі. Але пра яе вынікі сказаць варта. Як і ў выпадку з Кубэ, у Менску без папярэдняга сьледзтва была абвешчаная афіцыйная вэрсія, згодна зь якой Іваноўскага забілі савецкія партызаны. Нават сьмерць гэтага пачынальніка беларускага адраджэньня была выкарыстана ў прапагандысцкіх мэтах дзеля барацьбы з партызанамі.

Пасьля вайны нямецкую вэрсію падхапілі савецкія публіцысты. Галоўную ролю ў яе папулярызацыі адыграў раман Івана Новікава "Дарогі скрыжаваліся ў Мінску", шмат разоў выдадзены вялікімі накладамі. Аднак І. Новікаў абмыліўся — ён ня ведаў, што інфармацыя Готбэрга пра замах трапіла ў пратакол і захавалася.

* * *

Сьмерць Вацлава Іваноўскага, "бацькі гораду", як яго звычайна называлі, ахінула смуткам жыхароў Менску, а ягонае пахаваньне 11 сьнежня вылілася ў сапраўдную масавую дэманстрацыю жалобы, пашаны і ўдзячнасьці. З сваякоў за труной ішлі толькі ягоная дачка Ганна і першая жонка Сабіна.

Але і пасьля сьмерці не абышлося без складанасьцяў. Адзіны ў Менску каталіцкі сьвятар, літоўскі вайсковы капэлян, ксёндз Зянон Ігнатавічус, адмовіўся адпяваць Іваноўскага як разьведзенага. Затое не такім прынцыповым аказаўся намесьнік мітрапаліта Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы архіяпіскап Філафей, і такім чынам Іваноўскі пасьля рыма–каталіцкага хросту, эвангелісцкага (другога) шлюбу атрымаў яшчэ і праваслаўнае пахаваньне з удзелам шматлікіх прадстаўнікоў духавенства. Пахаваны ён, аднак, на каталіцкіх могілках — менскай Кальварыі.

Перад пахаваньнем адбылася афіцыйная жалобная цырымонія ў гарадзкім тэатры. Як можна бачыць з газэтных рэпартажаў, цырымонія была лягічным працягам правакацыйнага замаху на жыцьцё Вацлава Іваноўскага і выкарыстоўвалася як "пераканаўчы" аргумэнт у антыбальшавіцкай прапагандзе. Яго надзялілі тым, чаго ён найбольш сабе не зычыў.

---

[68] Справаздача з канфэрэнцыі з Готбэргам 22—23.11.1943. AAN. Александрыйскі мікрафільм. Т–454, р. 23/484.

[69] Życie i działalność polityczna prof. Wacława Iwanowskiego… (паведамленьне Анны Іваноўскай–Карнэцкай).

## Біяграфічныя нататкі

**АСТРОЎСКІ Радаслаў**, нар. 25.10.1887 у фальварку Запольле Слуцкага пав., скончыў гімназію ў Слуцку (1903), вучыўся ў Пецярбурскім і Дэрпцкім унівэрсытэтах (1908—1913). Палітычны дзяяч у Слуцку і Менску (1917—1918), у 1920 г. — у арміі ген. Дзянікіна, пазьней — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі (1924—1936), у службовым парадку пераведзены ў Лодзь (восень 1936 г.). У лютым 1924 г. стаў адным з заснавальнікаў праўрадавага Польска–беларускага таварыства, а пасьля яго распаду — супрацоўнік КП(б)Б і КПЗБ, куратар падпольнага камсамолу ў гімназіі; сябра кіраўніцтва Беларускай сялянска–работніцкай грамады і дырэктар Беларускага каапэратыўнага банку ў Вільні, цераз які праходзілі з СССР грошы, прызначаныя на падтрымку дзейнасьці БСРГ (1925—1926); сябра КПЗБ (1926). У студзені 1927 г. арыштаваны і абвінавачаны па працэсе Грамады, у турме зьмяніў свае палітычныя погляды і стаўся арганізатарам і прапагандыстам супрацоўніцтва з санацыяй (1928—1936). Пасьля вайны — палітычны дзяяч на эміграцыі. Памёр 17.10.1976 у Злучаных Штатах.

**БАГУШЭЎСКІ Сьцяпан**, нар. 07.01.1877 у Ізабелаве Менскай губ. Пасьля заканчэньня навучаньня ў кракаўскім Ягелонскім унівэрсытэце (1905 г.) далучыўся да палітычнага жыцьця і грамадзкай працы. У 1905—1906 г. — дзяяч Беларускага сялянскага саюзу ў Менску, а ў міжваенную пару — Цэнтральнага саюзу земляробчых суполак (Kółek Rolniczych) у Варшаве, выкладнік Польскага вольнага ўнівэрсытэту, быў сябрам Міжнароднай сельскагаспадарчай камісіі, створанай пры Лізе нацыяў. У 1928 і 1930 г. выбіраўся ў сэнатары Польшчы ад Беспартыйнага блёку супрацоўніцтва з урадам (ББСУ). У 1931 г. завязаў супрацоўніцтва з ПКП, у 1932 г. абвясьціў аб сваім выхадзе з ББСУ. Адзін з арганізатараў і старшыня Польскага антыфашысцкага і антываеннага камітэту. Памёр 18.04.1938 у Варшаве.

**БУТКЕВІЧ Вітальд**, сын Адольфа і Марыі з Кастравіцкіх, нар. 21.03.1902 у Навасадах Менскага пав. У 1920 г. сям’я пераехала ў Сувоўшчыну (Suwowszczyzna) Лідзкага пав. У міжваенную пару працаваў мытнікам на ўсходняй польскай мяжы і ў Гдыні, адкуль у кастрычніку 1939 г. яго выселілі немцы. Жыў у Варшаве, быў сябрам Беларускага камітэту, увесну 1941 г. уступіў у ЗУБ—АК. Зь лістапада 1941 г. да чэрвеня 1944 г. жыў у Менску, пазьней вярнуўся ў Варшаву. Пасьля Варшаўскага паўстаньня трапіў у канцлягер у Нямеччыне, адкуль у 1945 г. вярнуўся ў Польшчу. У сакавіку 1953 г. арыштаваны ў Эльблонгу і перададзены савецкім уладам у Менску. Дзякуючы хадайніцтву дачкі Барбары перад Баляславам Берутам, супрацоўнікам Буткевіча ў Менскай гарадзкой управе, неўзабаве выйшаў на волю і ў студзені 1954 г. вярнуўся ў Польшчу. Да 1970 г. працаваў у Toруньскім гарвыканкаме. Памёр 11.10.1975 у Надажыне пад Варшавай.

**ВАЛЕЙКА Вінцэнт**, нар. 23.01.1883 у фальварку Галавічполь Лідзкага пав. Скончыў III Рэальную гімназію ў Пецярбургу (1903), Горны інстытут (1911). З 1910 г. працаваў інжынэрам у Данбасе, на Ўкраіне, а з 1921 г. — у Дамброве–Гурнічай у Польшчы, спачатку ў шахтах, а пазьней — у Дзяржаўнай горна–мэталюргічнай школе. У траўні 1940 г. арыштаваны гестапа. 18.10.1940 памёр у канцлягеры Заксэнгаўзэн.

**ВАСІЛЕЎСКІ Леан**, нар. 24.08.1870 у Пецярбургу, палітычны дзяяч, публіцыст, гісторык. З 1896 г. — сябра ППС, рэдактар часопіса “Przedświt” (1897—1905), пасьля расколу 1906 г. — лідэр ППС–Рэвалюцыйнай фракцыі, у 1907 і 1914 г. — сябра яе Цэнтральнага рабочага камітэту, рэдактар партыйнай прэсы. У часе першай сусьветнай вайны — дзяяч польскіх незалежніцкіх арганізацыяў, у 1918—1919 г. — міністар замежных справаў, з

1928 г. — сябра Галоўнай рады ППС і з 1931 г. — яе віцэ–старшыня, з 1924 г. — прэзыдэнт Інстытуту вывучэньня найноўшай гісторыі Польшчы і рэдактар (з 1929 г.) часопіса "Niepodległość", з 1931 г. — дырэктар Інстытуту дасьледаваньня нацыянальных пытаньняў. Аўтар шматлікіх працаў, у т.л. "Літва і Беларусь" (1912 і 1925). Памёр 10.12.1936 у Варшаве.

**ВІТАН–ДУБЕЙКАЎСКІ Лявон**, нар. 07.07.1869 у маёнтку Дубейкава Магілёўскай губ. Вывучаў архітэктуру ў Пецярбургу і Парыжы, інжынэр–архітэктар, палітычны дзяяч. У сакавіку 1917 г. — сябра Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску (сьнежань 1917), прадстаўнік БНР у Варшаве (1919—1921). З 1922 г. жыў у Вільні, быў кіраўніком беларускай каталіцкай парафіі імя сьв. Міколы, дзяячом Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры, сябрам рэдкалегіі газэты "Беларускі Фронт". Памёр у Вільні 06.11.1940.

**ГРЫНЕВІЧ Антон**, нар. 03.05.1877 у фальварку Іваноўшчына Лепельскага пав. Віцебскай губ., зьбіральнік і папулярызатар беларускіх народных песень, выдавец, пэдагог, кампазытар. У 1896—1914 г. жыў у Пецярбургу, супрацоўнічаў з выдавецтвам "Загляне сонца і ў наша аконца", у 1910 г. заснаваў уласнае выдавецтва. У 1920—1925 г. працаваў у Вільні, між іншым, як настаўнік музыкі ў беларускай гімназіі. З 1925 г. жыў у Менску і Віцебску. Памёр 08.12.1937.

**ГРЫНКЕВІЧ Станіслаў**, нар. 02.11.1902 у Новым Двары Сакольскага пав. Скончыў мэдычны факультэт Познанскага ўнівэрсытэту (1930), працаваў у тамтэйшай клініцы, а з 1934 г. — у псыхіятрычнай больніцы ў Хорашчы пад Беластокам. Каля 1938 г. асеў у Вільні. Дзяяч беларускай хадэцыі, аўтар шматлікіх артыкулаў і папулярных брашур па мэдыцыне на польскай і беларускай мовах. У часе нямецкай акупацыі — дзяяч канспірацыйнага падпольнага Беларускага народнага аб'яднаньня, куратар супрацоўніцтва з польскім падпольлем. У 1944 г. арыштаваны савецкімі ўладамі, памёр у менскай турме ў 1945 або 1946 г.

**ДАБРЫНСКАЯ Зоф'я (дзяв. Корсак)**, нар. 14.04.1904 у Рызе. Скончыла ў Вільні гімназію імя А. Міцкевіча (1927) і настаўніцкую сэмінарыю, працавала школьнай настаўніцай на Віленшчыне, а пазьней у Варшаве. Падчас акупацыі ў Бюро інфармацыі і прапаганды ГК АК, працавала ў беларускай школе ў Варшаве (1942—1943), аўтарка падручнікаў для беларускіх школаў. Пасьля вайны некалькі гадоў пражыла ў Ольштыне, у 1950 г. вярнулася ў Варшаву, працавала ў галіне адукацыі. З 1961 г. — сябра Беларускага грамадзка–культурнага таварыства. Памерла 15.06.1992 г. у Варшаве.

**ЕРМАЧЭНКА Іван**, нар. 01.05.1894 у Капачоўцы Барысаўскага пав., скончыў гімназію ў Маскве, а падчас першай сусьветнай — афіцэрскую школу, служыў у расейскай арміі, пад канец вайны быў ад'ютантам ген. Урангеля, меў ранг палкоўніка. У 1920 г. эвакуаваўся ў Канстантынопаль, дзе з даручэньня ўраду БНР выконваў абавязкі генэральнага консула на Балканах. У 1922 г. пераехаў у Прагу. Тут атрымаў мэдыцынскую адукацыю (1929), займаўся лекарскай практыкай і палітычнай дзейнасьцю сярод беларускай эміграцыі. З 1938 г. — ініцыятар беларуска–нямецкага супрацоўніцтва. Пасьля другой сусьветнай вайны — на эміграцыі. Памёр 25.02.1970 у Злучаных Штатах.

**ЖАЛІГОЎСКІ Люцыян**, нар. 17.10.1865 у Ашмянах, генэрал. З 1885 г. — кадравы афіцэр расейскай арміі, падчас першай сусьветнай вайны — камандзір палка, затым служыў у Польскім корпусе ў Расеі. У 1918—1919 г. — камандзір сфармаванай на Кубані г.зв. Дывізіі Жалігоўскага і галоўнакамандуючы польскіх атрадаў на ўсходзе. У красавіку 1919 г. разам з дывізіяй вярнуўся ў Польшчу. У 1919 г. — камандзір апэрацыйнай

групы ў раёне Менску. Затым — камандзір 10–й дывізіі і 1–й беларуска–літоўскай дывізіі, якую падняў на славуты бунт, 09.10.1920 заняў Вільню і склікаў Часовую кіраўнічую камісію Сярэдняй Літвы. У 1925—1926 г. — міністар вайсковых справаў, у 1927—1930 г. — пасол сойму, падчас другой сусьветнай вайны — на эміграцыі, сябра лёнданскай Нацыянальнай рады. Памёр 09.07.1947 у Лёндане.

**ЖЫЛУНОВІЧ Зьмітро**, нар. 23.10.1887 у Капылі Менскай губ., рабочы, грамадзкі дзяяч, пісьменьнік. Пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі — у партыі бальшавікоў, прэм'ер–міністар абвешчанага 01.01.1919 ураду БССР. З 1920 г. кіруе Беларускім дзяржаўным выдавецтвам, рэдагуе газэту "Савецкая Беларусь" і часопіс "Полымя", выконвае розныя функцыі ўва ўрадзе рэспублікі. У 1931 г. выключаны з камуністычнай партыі, у 1936 г. арыштаваны, закатаваны ў засьценках НКВД. Памёр 11.04.1937 у шпіталі для псыхічна хворых у Магілёве.

**ЗАН Тамаш**, нар. у 1902 г. у Дукштах Ковенскай губ. Падчас першай сусьветнай вайны эвакуаваны ў Расею, пасьля служыў у польскіх вайсковых фармаваньнях. У 1922—1939 г. жыў у сваім маёнтку ў Дукштах. У 1939 г. мабілізаваны, удзельнічаў у верасьнёўскай кампаніі, у 1940 г. — быў рэзыдэнтам польскай выведкі ў Коўне, арыштаваны літоўскімі ўладамі, уцёк у Варшаву, прызначаны шэфам выведкі ЗУБ—АК на паўночна–ўсходнім абшары (Беларусь і Прыбалтыка). Зь лютага 1942 г. у Кедыве, пазьней — начальнік штабу Палескай дывізіі АК. Быў інтэрнаваны савецкімі ўладамі (1944—1946). Вярнуўся ў Польшчу, у 1951—1954 г. быў зьняволены. Памёр 11.05.1989 у Варшаве.

**ІВАНОЎСКІ Тадэвуш**, нар. 16.12.1882 у Лябёдцы. Скончыў X гімназію ў Пецярбургу (1903), вывучаў прыродазнаўчыя навукі ў Пецярбурскім унівэрсытэце (1903—1905) і парыскай Сарбоне (1905—1909). У 1910—1918 г. жыў у Пецярбургу, займаўся навукай, працаваў у міністэрстве сельскай гаспадаркі. З 1919 г. пераехаў у Коўну, працаваў у дэпартамэнце сельскай гаспадаркі, быў адным з арганізатараў Ковенскага ўнівэрсытэту і прафэсарам факультэту матэматычна–прыродазнаўчых навук. У 1940—1941 г. — кіраўнік катэдры заалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту, чалец АН Літоўскай ССР. Пасьля вайны — прафэсар Ковенскага і Віленскага ўнівэрсытэтаў, арганізатар і дырэктар Інстытуту біялёгіі Акадэміі навук ЛітССР. Быў выдатным арнітолягам, аўтарам шматлікіх навуковых прац. Памёр 01.04.1970 у Коўне.

**ІВАНОЎСКІ Юры**, нар. 29.01.1876 у Красным Варонескай губ. Скончыў гімназію ў Варшаве (1895) і Тэхналягічны інстытут у Пецярбургу (1901). Падчас навучаньня — дзяяч Польскага кола народнай асьветы і ППС. У траўні 1901 г. удзельнічаў у падрыхтоўцы ўцёкаў Ю. Пілсудзкага з псыхіятрычнай бальніцы ў Пецярбургу. У 1901—1903 г. — функцыянэр ППС у Чанстахове, Заглэмбі Дамброўскім і Варшаве. У студзені 1903 г. арыштаваны, сядзеў у Варшаўскай цытадэлі, адкуль зводьнены пад заставу, а ў студзені 1904 г. сасланы на 4 гады ў Ноўгарадзкую губ. Вызвалены падчас амністыі 1905 г., працаваў у ППС у Вільні, зноў быў арыштаваны. Пасьля вызваленьня ў 1907 г. працаваў у Маскве і Пецярбургу. Сябра ўправы выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца". У 1909 г. выехаў у Кітай, у 1918 г. вярнуўся на радзіму. У 1918—1919 г. — міністар прамысловасьці і гандлю ўва ўрадзе Ю. Марачэўскага і міністар працы і сацыяльнага забесьпячэньня ўва ўрадзе І. Падэрэўскага. З кастрычніка 1920 г. да студзеня 1921 г. — дырэктар дэпартамэнту замежных справаў у Часовай кіраўнічай камісіі Сярэдняй Літвы. У 1920—1930 г. — дзяяч Таварыства польскіх мэханікаў. У 1930—1935 г. — сэнатар Рэчы Паспалітай ад ББСУ. Падчас другой сусьветнай вайны служыў падпалкоўнікам Войска польскага на Захадзе. Пасьля вайны дзеяў на эміграцыі ў Вялікай Брытаніі, між

іншым, як старшыня Лігі незалежнасьці Польшчы (1950—1955). Памёр 28.03.1965 у Пэнлі.

**ІГНАТОЎСКІ Ўсевалад**, нар. 19.04.1881 у в. Такары Берасьцейскага пав., гісторык і палітычны дзяяч. Скончыў унівэрсытэт у Юр'еве (Тарту) (1911). У 1914—1920 г. — выкладнік Пэдагагічнага інстытуту ў Вільні і Менску. З 1926 г. — старшыня Інстытуту беларускай культуры, з студзеня 1929 г. — прэзыдэнт Беларускай акадэміі навук. З 1920 г. — сябра КП(б)Б, займаў высокія партыйныя і дзяржаўныя пасады. Аўтар шматлікіх прац з гісторыі Беларусі. У кастрычніку 1930 г. абвінавачаны ў нацыянальным апартунізьме, а ў студзені 1931 г. выключаны з партыі і звольнены з пасады прэзыдэнта БАН. 04 02.1931 зрабіў сабе сьмерць.

**КАСТРАВІЦКІ Амброжы Самуэль**, нар. у 1871 г. у Цывінску, што ў Сібіры, падчас вяртаньня сям'і з сасланьня. Скончыў V гімназію ў Пецярбургу і мэдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту (1897). У 1901—1920 г. працаваў лекарам у Лідзе, Сьвянцянах і Менску, удзельнічаў у беларускім руху, між іншым, у менскім аддзяленьні Беларускага таварыства па аказаньні помачы пацярпелым ад вайны (1916—1917). У сакавіку 1917 г. быў старшынём зьезду, на якім быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт у Менску. Зь лета 1920 г. жыў у Варшаве, у 1925 г. атрымаў гаспадарку ў Белагрудзе пад Лідай. Памёр у 1937 г. у Белагрудзе.

**КАСТРАВІЦКІ Казімер**, псэўданім Карусь Каганец, нар. 29.01.1868 у Табольску, у Сібіры. У 1872 г. вярнуўся на Беларусь, вучыўся ў гарадзкой школе ў Менску і мастацкай школе ў Маскве. Дзяяч Беларускай сацыялістычнай грамады (1903—1907), двойчы сядзеў у менскай турме. Беларускі пісьменьнік, паэт, драматург. Памёр 20.05.1918 у Навасёлках на Меншчыне.

**КАСТРАВІЦКІ Самуэль Анджэй**, сын Амброжага і Марыі з Багушэўскіх, нар. 04.12.1902 у Лідзе. У 1915—1918 г. вучыўся ў Менскай гімназіі. Пазьней служыў у Войску польскім, скончыў школу падхаружых у Варшаве, у сьнежні 1921 г. звольнены ў запас. У 1923 г. вывучаў права ўва ўнівэрсытэце Сьцяпана Батуры ў Вільні. У 30–х г. працаваў у Варшаўскай зямельнай палаце. Перад самай вайной пасяліўся ў Вільні. Пасьля верасьнёўскай кампаніі нядоўгі час хаваўся ў Вільні, пад канец 1939 г. прыбыў у Варшаву, супрацоўнічаў зь беларускім падпольлем і ЗУБ–АК. У ліпені 1944 г. атрымаў званьне маёра запасу. Пасьля Варшаўскага паўстаньня апынуўся ў лягеры палонных Лямсдорф і Вольдэнбэрг. З жніўня 1945 г. служыў у ахоўных ротах у Нямеччыне. Дэмабілізаваны ў 1948 г., эміграваў у Аргентыну. Памёр 12.07.1953 у Буэнас–Айрэсе.

**КАСЯК Іван**, нар. у 1909 г. у Віленскай губ. Скончыў беларускую гімназію ў Вільні, дзе падчас навучаньня ўступіў у камуністычны рух. Быў студэнтам Віленскага ўнівэрсытэту, дзяячом Беларускага студэнцкага саюзу і Таварыства беларускай школы. У 1932 г. за камуністычную дзейнасьць асуджаны на два гады турмы і выключаны з унівэрсытэту. Пасьля вызваленьня ў 30–х г. паступіў у Політэхнічны інстытут у Львове, з 1939 г. — камсамольскі актывіст сярод студэнцтва. З пачаткам нямецкай акупацыі зьмяніў свае палітычныя погляды, працаваў у генэральным камісарыяце ў Менску (1941—1943), у сакавіку—чэрвені 1944 г. выконваў абавязкі паўнамоцнага прадстаўніка Беларускай цэнтральнай рады ў Глыбоцкай акрузе. Пасьля вайны — на эміграцыі ў Злучаных Штатах. Памёр у 1990 г.

**КУБЭ Вільгельм**, нар. 13.11.1887 у Глогаве на Одэры, палітычны дзяяч, паэт і драматург. У 1908 —1912 г. вывучаў гісторыю і дзяржавазнаўства ў Бэрлінскім унівэрсытэце. У

1911—1923 г. быў дзячом Нямецкай сацыяльнай партыі, Кансэрватыўнай партыі, Нацыянальнай народнай партыі, рэдактарам іх друкаваных органаў. У 1923 г. ствараe Нацыянал–сацыялістычную партыю свабоды, у 1924 г. атрымлівае мандат дэпутата Райхстагу. У сьнежні 1927 г. уступае ў легалізаваную Нацыянал–сацыялістычную рабочую партыю Нямеччыны (NSDAP)* і становіцца гаўляйтэрам усходняй маркі. У 1933—1936 г. быў віцэ–прэзыдэнтам Бэрліна і Брандэнбургу, дэпутатам Райхстагу, чальцом Акадэміі нямецкага права, экспэртам па пытаньнях старавечнай гісторыі. У 1936 г. выступіў супраць перасьледу жыдоў, за што быў пазбаўлены занятых дзяржаўных і партыйных пасадаў. У ліпені 1941 г. прызначаны Гітлерам на пасаду генэральнага камісара Беларусі. У вострай барацьбе з СС намагаўся ажыццяўляць палітыку нацыянальнага адраджэньня Беларусі. 22.09.1943 загінуў у выніку замаху, арганізаванага, верагодна, кіраўніцтвам СС.

**ЛАСТОЎСКІ Вацлаў**, нар. 20.10.1883 у фальварку Калесьнікі Дзісенскага пав. Віцебскае губ., гісторык, палітычны дзяяч. Супрацоўнік “Нашай Нівы”, рэдактар газэты “Гоман” у Вільні (1916—1917) і часопіса “Крывіч” у Коўне (1923—1927). У 1906—1917 г. дзяяч Беларускай сацыялістычнай грамады, з 1919 г. лідэр Партыі беларускіх сацыялістаў–рэвалюцыянэраў. Зь сьнежня 1919 г. — старшыня Рады міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі. У 1927 г. вярнуўся ў Менск, стаў сталым сакратаром Беларускай акадэміі навук. Арыштаваны падчас хвалі антыбеларускіх рэпрэсіяў, загінуў у 1938 г.

**ЛУЦКЕВІЧ Антон**, нар. 30.01.1884 у Шаўлях Ковенскай губ., выдатны дзяяч беларускага нацыянальнага руху, публіцыст, літаратурны крытык. Скончыў унівэрсытэт у Пецярбургу і Дэрпце. Адзін з заснавальнікаў і стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады (1903—1907), супрацоўнік “Нашай Долі” і “Нашай Нівы” (1906—1915). У лістападзе 1918 г. — прэм’ер–міністар ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, зь сьнежня 1919 г. — старшыня Найвышэйшай рады БНР. У міжваенную пару жыў у Вільні, працаваў у Беларускім навуковым таварыстве, кіраваў музэем імя Івана Луцкевіча, быў настаўнікам беларускай гімназіі, у 1925—1926 г. супрацоўнічаў зь Беларускай сялянска–работніцкай грамадой, пазьней — з праўрадавым “Цэнтрасаюзам”. У кастрычніку 1939 г. арыштаваны савецкімі ўладамі. Паводле афіцыйнай вэрсіі, памёр у высылцы ў 1946 г.

**ЛУЦЭВІЧ Іван**, пс. Янка Купала, нар. 25.06.1882 у фальварку Вязынка Менскай губ., выдатны беларускі паэт, драматург і публіцыст, прарок нацыянальнага адраджэньня. У 1908—1909 г. — супрацоўнік віленскай “Нашай Нівы”, у 1909—1913 г. — выдавецтва “Загляне сонца і ў наша аконца” ў Пецярбургу, дзе выйшлі яго найлепшыя творы. У 1913 г. вяртаецца ў Вільню, становіцца рэдактарам “Нашай Нівы” і сакратаром віленскага Беларускага выдавецкага таварыства. Увосень 1915 г. эвакуаваны ў Арол, мабілізаваны ў войска. З 1919 г. у Менску. Памёр 28.06.1942 у Маскве пры нявысьветленых абставінах.

**НАЙДЗЮК–АЛЕКСАНДРОВІЧ Язэп**, нар. 12.05.1909 у в. Бойдаты Ваўкавыскага пав. Кіраўнік беларускай друкарні імя Ф. Скарыны ў Вільні (1926—1939), рэдактар віленскага месячніка “Шлях Моладзі” (1932—1939). Улетку 1939 г. арыштаваны, сасланы ў канцлягер Бяроза Картуская**, у верасьні вярнуўся ў Вільню. З восені 1941 г. да чэрвеня

* NSDAP — Nationalsozialistische Deutsche Arbeiterpartei, Нацыянал–сацыялістычная нямецкая рабочая партыя. — *А.С.*

** Канцэнтрацыйны лягер у Картуз–Бярозе быў створаны 12 ліпеня 1934 г. пасьля забойства ўкраінскімі нацыяналістамі міністра ўнутраных спраў Польшчы Браніслава Перацкага. Паводле адпаведнага распараджэньня, ягонымі вязьнямі рабіліся асобы, “дзейнасьць або паводзіны якіх даюць падставу меркаваць, што зь іх боку ёсьць пагроза парушэньня бясьпекі, спакою або грамадзкага парадку”. Лягер вылучаўся сярод іншых польскіх турмаў сваімі цяжкімі ўмовамі ўтрыманьня вязьняў. Дзейнічаў да 1939 г. — *А.П.*

1944 г. працуе ў Менску, у выдавецтве школьных падручнікаў. У чэрвені 1945 г. пасяліўся ў Інаўроцлаве пад новым прозьвішчам Александровіч. Да 1978 г. працаваў у Інаўроцлаўскай друкарні, быў сябрам гарадзкой нацыянальнай рады, адным з заснавальнікаў Таварыства рупліўцаў гораду Інаўроцлава і сябрам мясцовага аддзяленьня Польскага гістарычнага таварыства. Аўтар падручніка гісторыі “Беларусь учора і сяньня” (1944), шматлікіх артыкулаў і кніг, прысьвечаных як беларускай тэматыцы, так і гісторыі гарадоў Інаўроцлаў і Куявы. Памёр 14.02.1984.

**ПАШКЕВІЧ Алёйзія**, пс. Цётка ды інш., нар. 03.07.1876 у фальварку Пешчын каля Ліды. Вучылася ў Вільні і Пецярбургу, дзе ў чэрвені 1904 г. скончыла жаночую гімназію. У 1904—1905 г. — дзяячка Беларускай сацыялістычнай грамады. У 1905—1911 г. вучылася ў Львоўскім і Кракаўскім унівэрсытэтах, у 1911 г. вяртаецца на радзіму, выходзіць замуж за літоўскага палітычнага дзяяча Стэпонаса Кайрыса. Паэтка, публіцыстка, рэдактарка моладзевага часопіса “Лучынка” ў Менску. Памерла 05.02.1916, пахаваная ў Старым Двары, што пад Лідай.

**СІВІЦКАЯ (па мужу — Войцік) Людвіка**, нар. 30.09.1892 на Ўкраіне. Скончыла жаночую гімназію ў Горадні (1912), садаводча–пчалярскія курсы ў Варшаве (1914). Удзельніца Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909—1913), менскага аддзяленьня Беларускага таварыства па аказаньні помачы пацярпелым ад вайны (1915—1917), сакратар Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску (1917). З 1923 г. жыла ў Вільні, удзельнічала ў беларускім руху, рэдагавала дзіцячыя часопісы “Заранка” і “Пралескі”*. Аўтарка вершаў і апавяданьняў пад псэўданімам “Зоська Верас”. Памерла 08.10.1991 у Вільні.

**СКІРМУНТ Раман**, нар. у 1868 г. у маёнтку Парэчча Пінскага пав., буйны земляўласьнік, палітычны дзяяч. З 1906 г. — чалец першай Дзяржаўнай думы, з кастрычніка 1910 г. — сябра Дзяржаўнай рады Расеі, з сакавіка 1917 г. — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску, увесну 1918 г. стаў чальцом Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, а зь ліпеня 1918 г. — прэм’ерам ураду БНР. Пасьля першай сусьветнай вайны адыйшоў ад палітычнага жыцьця, жыў у сваім маёнтку. Загінуў, верагодна, у верасьні 1939 г.

**СТАНКЕВІЧ Ян**, нар. 26.11.1891 у в. Арляняты Ашмянскага пав., скончыў беларускую гімназію ў Вільні (1921), Праскі ўнівэрсытэт у Чэхаславаччыне, доктар філязофіі (1926), выкладнік беларускай мовы ў Варшаўскім (1928—1932) і Віленскім (1927—1940) унівэрсытэтах, дэпутат сойму (1928—1930), публіцыст, палітычны дзяяч, аўтар шматлікіх мовазнаўчых і гістарычных працаў, пасьля вайны — на эміграцыі, памёр 16.07.1976 у Злучаных Штатах.

**ТАРАШКЕВІЧ Браніслаў**, нар. 20.01.1892 у Мацюлішках на Віленшчыне. Скончыў гімназію ў Вільні (1911) і ўнівэрсытэт у Петраградзе (1916). Навуковы супрацоўнік Петраградзкага ўнівэрсытэту (1916—1918), выкладнік менскага Пэдагагічнага інстытуту (1918—1920), кіраўнік аддзелу беларускіх школаў у Часовай кіраўнічай камісіі Сярэдняй Літвы ў Вільні (1920—1922), дырэктар Віленскай беларускай гімназіі (1921—1922). Дэпутат сойму (1922—15.01.1927), з 1925 г. — сябра КПЗБ, заснавальнік і кіраўнік Беларускай сялянска–работніцкай грамады. У траўні 1928 г. асуджаны на 12 гадоў турмы, у 1930 г.

* Дзіцячы часопіс “Пралескі” выдаваўся ў Вільні кірыліцай і лацінкай зь лістапада 1934 па жнівень 1939 г. Станіслаў Глякоўскі быў яго выдаўцом, а рэдактарам — Зоська Верас. — *А.П.*

зьмілаваны. У лютым 1931 г. зноў арыштаваны за камуністычную дзейнасьць, у верасьні 1933 г. выехаў у СССР у выніку абмену палітвязьнямі. Працаваў у Міжнародным сельскагаспадарчым інстытуце ў Маскве. Расстраляны 29.11.1938. Аўтар граматыкі беларускай мовы, перакладу "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча, "Іліяды" Гамэра ды інш.

**ТУМАШ Вітаўт**, нар. у 1910 г., лекар, гісторык, публіцыст. Скончыў мэдыцынскі факультэт Віленскага ўнівэрсытэту Сьцяпана Батуры (1937), дзяяч Беларускага студэнцкага саюзу ў Вільні. У 1940—1941 г. у Лодзі быў старшынём мясцовага аддзяленьня Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, сябра створанага 19.06.1941 г. у Бэрліне Беларускага нацыянальнага цэнтру, зь ліпеня да сярэдзіны лістапада 1941 г. — бурмістар Менску, у 1943 г. — рэдактар бэрлінскага тыднёвіка "Раніца". Пасьля вайны на эміграцыі ў Нямеччыне і Злучаных Штатах, шматгадовы сябра ўправы Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью–Ёрку. Аўтар шматлікіх гістарычных дасьледаваньняў, асабліва — у галіне скарыназнаўства. Памёр 30.04.1998 у ЗША.

**ФАЛЬСКІ Мар'ян**, нар. 07.12.1881 у Начы каля Наваградку. Скончыў Політэхнічны інстытут у Варшаве, у 1903—1906 г. — дзяяч ППС, у 1907 г. сядзеў у Варшаўскай цытадэлі. У 1910 г. выдаў лемантар "Nauka czytania i pisania", які пазьней шмат разоў удасканальваўся. У 1919—1939 г. працаваў у польскім міністэрстве рэлігійных канфэсіяў і народнай асьветы, пасьля вайны — у міністэрстве асьветы. З 1953 г. — у Польскай акадэміі навук, з 1954 г. — ардынарны прафэсар, а з 1958 г. — кіраўнік Лябараторыі структуры і арганізацыі асьветы ПАН. Аўтар шматлікіх працаў з школьнай асьветы. Памёр у 1974 г. у Варшаве.

**ЦЯРЭШЧАНКА Кузьма**, нар. на Смаленшчыне, дзяяч партыі эсэраў, арганізатар і ўдзельнік першага ўсебеларускага зьезду ў Менску (сьнежань 1917 г.), старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску (1919/20), адзін з заснавальнікаў дыпляматычных службаў БНР у краінах Прыбалтыкі. Пасьля Рыскага трактату выехаў у БССР. Памёр увесну 1923 г. у Менску.

**ЭПІМАХ–ШЫПІЛА Браніслаў**, нар. 04.09.1859 у фальварку Будзькаўшчына Лепельскага пав. Віцебскай губ. Скончыў гімназію ў Рызе (1880) і ўнівэрсытэт у Пецярбургу (1885). У 1891—1925 г. — супрацоўнік унівэрсытэцкай бібліятэкі ў Пецярбургу, выкладчык пецярбурскай Рымска–каталіцкай духоўнай акадэміі ды іншых навучальных установаў. З 1925 г. — навуковы супрацоўнік Інстытуту беларускай культуры ў Менску, адкуль быў высланы ў 1930 г. у атмасфэры антыбеларускіх рэпрэсіяў савецкіх уладаў. Вярнуўся ў Ленінград, дзе памёр 06.06.1934.

*Пераклад зроблены паводле:* Turonek Jerzy. Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawska Oficyna Wydawnicza "Gryf", Instytut Historii PAN, 1992

# “Іваноўскі быў нацыянальным дзеячом...”

Мая работа доўгі час ня мела нічога агульнага з гісторыяй, але ёй я цікавіўся заўсёды. Пачаў, бадай, з вывучэньня гісторыі народнай асьветы на Беласточчыне. Асабліва мяне цікавіў пэрыяд савецкай улады (1939—1941 гады) ды час нямецкай акупацыі. Тады мясцовая людзі самі вызначалі мову навучаньня сваіх дзяцей у школах. Таму, напрыклад, у Бельскім павеце існавалі і беларускія, і польскія школы — усё залежала ад пажаданьняў насельніцтва, немцы ў гэтую справу ня ўмешваліся.

Школы, школы... Менавіта гісторыя школьніцтва ў 30—40–я гады выклікала маю цікавасьць да вывучэньня іншых аспэктаў найноўшай гісторыі Беларусі. Я сабраў аграмадны матэрыял, але доўгі час яго не выкарыстоўваў, таму што не было ніякай надзеі на выданьне.

Недзе ў палове семдзясятых гадоў я пачаў цікавіцца постацьцю Вацлава Іваноўскага. Я ведаў, што кнігі, выдадзеныя зь ягоным удзелам яшчэ да першай сусьветнай вайны, шырока выкарыстоўваліся ў беларускіх школах. Але рэч у тым, што савецкія публіцысты ў сваіх выказваньнях ацэньвалі яго вельмі адназначна і вельмі адмоўна. Калі я пабачыў, што адмоўна яго ацэньваюць ня толькі савецкія, але і іншыя беларускія дасьледчыкі (напрыклад, стаўленьне да яго хадэцыі было вельмі стрыманым, таксама і левых, КПЗБоўскіх прыбудовак), дык гэта мяне яшчэ больш штурхала да новых досьледаў.

Пачалося з таго, што я знайшоў архіўную дакумэнтацыю аб удзеле Іваноўскага ў беларускай канспірацыйнай арганізацыі часоў другой сусьветнай вайны. Тая арганізацыя вяла перамовы з Галоўным камандаваньнем Арміі Краёвай. І я адразу падумаў: добра, які ж ён фашыст, калі ён вядзе перамовы зь яўнымі ворагамі фашызму? У выніку зьявілася апрацоўка, якую я назваў “Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру” (у часе вайны Лёнданскім лягерам называўся эмігранцкі ўрад Польшчы ў Лёндане, ягоныя падпольныя прадстаўніцтвы: Галоўнае камандаваньне АК, падпольны парлямэнт). Атрымалася, на мой погляд, цікава. Тую распрацоўку я перадаў у Інстытут гісторыі Польскай акадэміі навук прафэсару Ласоўскаму. Ён гэтым вельмі зацікавіўся, прапанаваў апублікаваць матэрыялы ў друку. Ад яго ж я пачуў: інстытут цікавіцца польска–літоўскімі, польска–ўкраінскімі ды польска–беларускімі ўзаемаадносінамі ў час апошняй вайны. Украінская і літоўская тэмы былі даволі грунтоўна распрацаваныя, затое беларуская заставалася амаль недасьледаванай. Быў адзін дактарант, які сядзеў над гэтай тэмай два гады і ўрэшце адмовіўся — сказаў, што ніякіх адносін не было.

Тэкст, які я прынёс, у інстытуце палічылі вельмі цікавым і спыталі: гэта толькі малы кавалак цэлай праблемы, і таму ці не захачу я распрацаваць цэлую дысэртацыю, цалкам прысьвечаную пытаньню нямецкай акупацыі Беларусі? Але ж распрацоўка гэтай тэмы — работа на некалькі гадоў для цэлага інстытуту, і таму я прапанаваў сваю: “Акупацыйная палітыка на Беларусі”. Мяне аспрэчылі, заявіўшы: ці можна весьці размову пра нейкую асобную палітыку ў адным рэгіёне, калі яна была аднолькавай паўсюль на ўсходзе? У найлепшым выпадку гэта матэрыял для артыкула. Я быў вельмі зацікаўлены праблематыкай акупацыі, не хацеў губляць магчымасьць працаваць у архівах і таму згадзіўся з прапанаванай фармулёўкай, але папярэдзіў: калі мяне будуць крытыкаваць за тое, што ў працы няма згадак пра агародніцтва, ці тэатральнае мастацтва, ці жыдоўскае пытаньне, ці партызанскі рух, дык хай мяне бароняць, бо згадаць аб нечым я магу толькі пры ўмове, што яно патрэбна для раскрыцьця галоўнай тэмы.

Гэтая праца пачалася ў 1982 годзе. Я шмат працаваў у архівах, праўда, не карыстаўся менскімі архівамі — у той час такой магчымасьці проста не існавала. Але я знайшоў шмат

нямецкіх архіваў. Іх захапілі амэрыканцы ў 1945 годзе. Зьмікрафільмавалі і прадалі копіі ўсім, хто меў даляры і быў зацікаўлены справай. Паколькі Польшча была зацікаўлена, яна купіла даволі багатыя калекцыі, напрыклад, увесь зьмікрафільмаваны архіў міністэрства Розэнбэрга[1] — гэта 106 ролікаў, у кожным каля тысячы кадраў — 106 000 старонак. А архіў райхсфюрэра СС і паліцыі налічвае тысячу ролікаў, з чаго Польшча купіла 500 — з паўмільёна старонак. Гэта быў вельмі багаты матэрыял. Акрамя таго, я меў часопісы, з кнігі, савецкія публікацыі дакумэнтаў. Матэрыялу было дастаткова, і ў выніку атрымалася кніга, прысьвечаная выключна акупацыйнай палітыцы Нямеччыны на Беларусі. Да выкананьня гэтае працы я меў ступень магістра эканамічных навук. У 1986 годзе я абараніўся, атрымаўшы навуковую ступень гісторыка. Трохі пазьней на падставе дысэртацыі польскім выдавецтвам "Вэрс" была надрукавана кніга "Беларусь пад нямецкай акупацыяй". Выдалі яе бяз аўтарскай карэктуры, з тэхнічнымі хібамі, але бяда невялікая, бо неўзабаве зьявіцца другое польскае выданьне, больш дасканалае і добра ілюстраванае. Магчыма, выйдзе і беларускае выданьне — пераклад ужо зроблены[2].

Усё гэта заняло шмат часу, і таму з пачатку 80–х гадоў я "замарозіў" працу над манаграфіяй пра Іваноўскага. Усё спынілася на этапе, калі я ўжо меў сабраны матэрыял: унікальны матэрыял, меў праведзеныя размовы зь людзьмі, якія цяпер ужо адыйшлі, але ўсё гэта было ўжо зафіксавана, усё ляжала і чакала лепшых часоў. Пасьля таго, як была скончана манаграфія па праблемах акупацыі, я пачаў рыхтаваць новую — пра Вацлава Іваноўскага. Але яшчэ раней было падрыхтавана некалькі матэрыялаў аб пачатку беларускай выдавецкай дзейнасьці — яшчэ да "Нашай Нівы", да рэвалюцыі 1905 году[3]. У вас гэтым займаўся Сьцяпан Александровіч. Але ўсё патрабавала праверкі, пашырэньня.

Гэта быў час, калі Іваноўскі ствараў у Пецярбургу Беларускую рэвалюцыйную партыю, потым — Круг народнай прасьветы. Гэта была цікавая справа: ён любіў дзейнічаць у вузкім коле давераных асобаў, безь вялікай рэклямы. Яны — Вацлаў Іваноўскі, студэнт Тэхналягічнага інстытуту ў Пецярбургу, Мар'ян Фальскі, студэнт Політэхнічнага інстытуту ў Варшаве, Сьцяпан Багушэўскі — студэнт Ягелонскага ўнівэрсытэту ў Кракаве — стварылі таемную выдавецкую суполку. Іваноўскі даставаў грошы, арганізаваў тэксты, Фальскі пераклаў іх з польскай мовы на беларускую, а Багушэўскі вывез тэксты і грошы ў Кракаў і там, у Аўстра–Венгерскай манархіі, надрукаваў. І потым праз "зялёную граніцу" — нелегальна — яны шмуглявалі ўсе гэтыя кніжкі ў Беларусь.

Потым узьнікла пытаньне беларускага лемантара — гэта ўжо 1906 год. Яго выканала суполка "Загляне сонца і ў наша аконца", арганізатарам і старшынём якой быў Іваноўскі, а не Шыпіла, як аб гэтым вельмі часта ў вас пісалася. Пісалася таму, што Іваноўскі быў "вораг народу", страшны чалавек. Але вынікі ягонай дзейнасьці былі, і яны ўхвальваліся. Існавала непраўдзівая вэрсія, што кіраўніком суполкі быў Шыпіла. Некаторыя пісалі, што фактычным кіраўніком суполкі быў Шыпіла, значыць, фармальна быў нехта іншы... Тым часам Шыпіла быў вельмі заняты. Ён меў вялікую пэдагагічную работу, акрамя бібліятэкі, у якой працаваў. У дадатак, калі ўзьнікла справа канфіскацыі Багушэвічавых "Смыка" і "Дудкі" і пагроза завісла над "Жалейкай" Купалы, дык ён уцёк з гэтай суполкі. Ён выкінуў яе з свайго памяшканьня і вярнуўся пазьней, калі ўсё ўжо супакоілася.

І тут узьнікла справа буквара. Буквар... Усе кніжкі, якія выпусьціла суполка, мелі або аўтара, або былі падпісаны псэўданімам, тым часам лемантар быў увогуле ананім-

[1] Мова пра міністэрства акупаваных усходніх абшараў. — *А.С.*

[2] Кніга "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" выйшла ў 1993 г. у Менску. — *А.С.*

[3] Перш чым пачаць працу над дысэртацыяй пра нямецкую акупацыю Беларусі, Ю. Туронак апублікаваў артыкулы "Па сьлядох «Свабоды»" і "Ўдзел М. Фальскага ў беларускім выдавецкім руху". Завяршаючы дысэртацыю, ён апублікаваў у 1985 г. артыкул "З гісторыі беларускага выдавецкага руху ў 1902—1905 гадох". — *А.С.*

ны. Я высьветліў: распрацоўкай і апрацоўкай яго заняўся сам Іваноўскі. Ён зрабіў лацінічную вэрсію. Кастравіцкі зрабіў кірылічны варыянт, але гэта было толькі перапісваньне. Вельмі цікава, што ў канцы буквара ёсьць сказы для чытаньня, ніяк не зьвязаныя паміж сабой, накшталт “Котка грэецца на сонцы”. І сярод іх уплецены адзін — але вельмі цікавы: “Яны бяруцца за гэта дзела і думаюць, што яно ім удасца”. Хто “яны”? Гэта — Іваноўскі і Кастравіцкі (Карусь Каганец), якія рыхтавалі той буквар. Выдавецкая дзейнасьць — другі пэрыяд жыцьця Вацлава Іваноўскага.

Потым — палітычная дзейнасьць. Адразу ўзьніклі нейкія непаладкі з Луцкевічамі. Я гэтым мала займаўся, але само пытаньне вельмі цікавае. Чаму, напрыклад, БСГ ня мела аднаго Цэнтральнага камітэту, а толькі два краёвыя — Віленскі і Менскі? Адзіны Цэнтральны камітэт узьнік толькі на Каляды 1905 году[4].

У 1908 годзе Іваноўскі выехаў у Мюнхэн і там, у Політэхнічным, зрабіў доктарскую дысэртацыю аб вырошчваньні цукровых буракоў на беларускіх глебах. Вярнуўся ў 1909 годзе і быў дацэнтам у Тэхналягічным інстытуце, выкладаў у Пецярбурскім жаночым політэхнічным інстытуце. Выкладчыцкай работай і выдавецкай дзейнасьцю ён займаўся да сярэдзіны 1913 году, пакуль не пераехаў у Вільню. Суполка, якой на той час кіраваў Шыпіла, памалу занепадала, выдавала толькі раней апрацаваныя тэксты. Затое Іваноўскі разам з Купалам прыехалі ў Вільню і адкрылі там Беларускае выдавецкае таварыства[5]. За няцэлыя два гады яны зрабілі вялікую работу. Усё спынілася з пачаткам першай сусьветнай вайны[6].

У кнізе, якая неўзабаве мае выйсьці[7], разьдзел пра падзеі часоў вайны называецца “З Расеяй ці з Польшчай?”. Звычайна Іваноўскага ўяўляюць страшным ворагам Расеі. Тым часам ён прытрымліваўся поглядаў зусім адваротнага напрамку. Ён арыентаваўся менавіта на Расею, ён лічыў, што расейскі рынак — неабходная ўмова эканамічнага разьвіцьця Беларусі, што свае прамысловыя вырабы Беларусь будзе прадаваць не на захад, але якраз туды — на ўсход. Доўгі час ён арыентаваўся на Расею, нават на Леніна, на бальшавікоў. Цікава, што ў 1917 годзе, пасьля Лютаўскай рэвалюцыі, ён вельмі хутка страціў надзею на магчымасьць супрацоўніцтва з урадам Керанскага. Уявіце сабе: ужо пад канец нямецкай акупацыі, калі ўрад БНР і Рада БНР эвакуаваліся ў Горадню, ён, міністар асьветы БНР, застаўся ў Менску на тое, каб з камуністамі Жылуновіча стварыць кааліцыйны беларускі савецкі ўрад — кааліцыю камуністаў і сацыял–дэмакратаў. Прыйшлі бальшавікі, і па нядоўгім часе і Жылуновіча, і Іваноўскага арыштавалі. Лёс Жылуновіча вядомы. У адрозьненьне ад яго, Іваноўскі быў толькі інтэрнаваны. Яго трымалі ў Смаленску. У гэты час ягоны брат Юры быў міністрам ва ўрадзе Польшчы — спачатку прамысловасьці і гандлю, а потым — працы і грамадзкай апекі. Так ці інакш, ён мог забраць Вацлава ў Варшаву, неяк уладкаваць, каб той мог свабодна працаваць і нават дзейнічаць на беларускай ніве. Але пасьля вызваленьня Іваноўскі замест таго, каб ехаць у свабодную Варшаву, вяртаецца ў бальшавіцкі Менск. Нядаўна ваш “ЛіМ” апублікаваў цікавы здымак да артыкула пра Язэпа Гладкага. На здымку — першыя беларускія курсы Пэдагагічнага інстытуту ў Менску. Вясна, 1919 год, і на гэтым здымку — Іваноўскі. Калі вясной 1919–га польскія легіёны пайшлі на ўсход, іх віталі розныя беларускія арганізацыі, у тым ліку і Тарашкевіч. Арыентацыя беларускіх дзяячоў на Польшчу была выразнай. Але сярод іх не было Іваноўскага. Для мяне гэта было надзвычай цікава: дзе прапаў Іваноўскі? Я яго шукаў і ў Вільні, і ў Варшаве, і ў

[4] Хоць аўтары ня згадваюць ЦК БРГ у сваіх успамінах, яго існаваньне нельга выключаць. — *А.С.*

[5] Спачатку (1 ліпеня 1913 г.) было заснавана Беларускае выдавецкае таварыства, а 7 кастрычніка з Акопаў у Вільню прыехаў Я. Купала, каб заняць пасаду адказнага сакратара БВТ. Ёсьць усе падставы меркаваць, што прызначэньне Я. Купалы адбылося з ініцыятывы В. Іваноўскага. — *А.С.*

[6] БВТ спыніла сваю дзейнасьць у часе вайны (у 1915 г.) — *А.С.*

[7] Гаворка пра манаграфію “Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi” (1992). — *А.С.*

Горадні — няма нідзе. Толькі потым аказалася, што ён сядзеў па другі бок фронту — у бальшавікоў.

Ягоныя погляды карэнным чынам зьмяніліся пасьля таго, як Ленін падчас перамоваў паміж савецкай Расеяй і Польшчай у канцы 1919 — пачатку 1920 году некалькі разоў інструктаваў Мархлеўскага, што з–за Беларусі разыходжаньняў быць ня можа. Калі палякі хочуць — яны могуць мець усю Беларусь. Ленін прапанаваў вечную граніцу на Бярэзіне. Для Іваноўскага гэта быў вялікі шок. Ён зразумеў, што той, на каго ён арыентаваўся, абсалютна не цікавіцца беларускім пытаньнем, гатовы падзяліць Беларусь, пакідаючы за сабой яе ўсходнюю частку і аддаючы Польшчы заходнюю. Развалілася ўся палітычная канцэпцыя Іваноўскага. Ён быў гатовы супрацоўнічаць з кожным, хто мог дапамагчы стварыць беларускую дзяржаўнасьць і захаваць тэрытарыяльную цэласнасьць.

Яго арыентацыя на Пілсудзкага? Так, але яна была даволі своеасаблівай. Найбольшыя закіды яму робяць, зважаючы на перамовы, якія ён вёў у сакавіку 1920 году ў Менску. Калі дакладна, дык перамовы пачаліся не ў сакавіку, а на пачатку лютага. Пілсудзкі прыехаў у Вільню, і нехта там у яго запытаў: што ён думае пра Беларусь? Той адказаў, што ня хоча нават думаць пра гэтую беларускую фікцыю — так ён назваў беларускае пытаньне. Потым да яго прыехаў Іваноўскі.

Думаю, Пілсудзкі і Іваноўскі былі знаёмыя асабіста. Брат Вацлава Юры быў пэпээсаўцам і блізкім супрацоўнікам Пілсудзкага.

Прыблізна ў сярэдзіне лютага ў Вільні ўзьнікла справа, якую гісторыкі ня любяць узгадваць. Польскія гісторыкі любяць падкрэсьліваць фэдэрацыйную канцэпцыю Пілсудзкага. Гаворыцца, што Пілсудзкі імкнуўся стварыць такі блёк дзяржаваў, які ўключаў бы Польшчу, Літву, Беларусь ды Украіну, хай нават пад польскім патранатам, які мог бы супрацьпаставіцца і Расеі, і Нямеччыне. Але ў творах Пілсудзкага гэтай канцэпцыі няма, аб гэтым ён ні разу не выказваўся. Я ня ведаю, на якой падставе польскія гісторыкі так мяркуюць. Затое ведаю: да сустрэчы з Іваноўскім, да паловы лютага 1920 году, у Польшчы была моцная апазыцыя фэдэрацыйнай палітыцы. Палякі не хацелі фэдэрацыі, яны хацелі анэксаваць тое, што ўдасца. А Іваноўскі схіліў Пілсудзкага да перамоў з Масквой. Быў прыняты пастулят, паводле якога польскі ўрад дамагаўся аднаўленьня з Расеяй граніцы 1772 году — да падзелу Рэчы Паспалітай. Іваноўскі зыходзіў з таго, што ўся тэрыторыя Беларусі можа апынуцца ў палітычнай арбіце Польшчы і тады, незалежна ад становішча тых ці іншых польскіх груповак, партыяў ці ўрадавых колаў, справа фэдэралізацыі мусіла рушыць. Пілсудзкаму гэта спадабалася, ён ухваліў гэтую ідэю і даручыў міністру замежных справаў Польшчы стварыць спэцыяльную камісію, якая б рыхтавалася да перамоў зь беларускім бокам. Старшынём камісіі быў Леан Васілеўскі. Дэлегацыя прыехала ў Менск. І яны сядзелі за адным сталом — Іваноўскі і Васілеўскі як прадстаўнікі дзьвюх дзяржаў — людзі, якія ў 1904 годзе супрацоўнічалі ў выданьні беларускіх кніг у Кракаве[8].

Гэта выклікала страшнае незадавальненьне сярод дзяржаўных колаў, чыноўнікаў, прэсы і гэтак далей. Чуліся галасы: “Чаму зь беларусамі гаворыць дэлегацыя міністэрства замежных справаў? Справа пастаўлена на дыпляматычны ўзровень, тады як зь імі павінен гаварыць Асмалоўскі — шэф цэнтральнага ўпраўленьня ўсходніх земляў” — акупацыйнай установы. Абурэньне было вялікім.

Усю справу вырашыў Тухачэўскі, армія якога прарвала фронт і хутка пайшла на захад, да Варшавы. Потым, вядома, Рыскі мірны трактат і адмаўленьне ад актыўнай палітычнай дзейнасьці ўва ўмовах Заходняй Беларусі. Гэта вельмі цікава: Іваноўскі,

[8] У артыкуле “З гісторыі беларускага выдавецкага руху ў 1902—1905 гадох” Ю. Туронак піша, што Л. Васілеўскі, які ў 1904 г. жыў у Кракаве, меў “вельмі павярхоўнае ўяўленьне пра кракаўскія беларускія публікацыі”, падрыхтаваныя В. Іваноўскім і С. Багушэўскім (гл. с. 41—54 гэтага выданьня). — *А.С.*

чалавек, які дагэтуль адыгрываў вельмі значную ролю ў беларускім палітычным жыцьці, раптам, пасьля Рыскага трактату, адыйшоў ад палітычнай дзейнасьці. Былі людзі, якія папракалі яго: у той час, як яны сядзелі ў польскіх турмах, ён жыў у Варшаве, быў прафэсарам Політэхнічнага інстытуту.

Калі б гэта было так, дык і ў верасьні 1939 году ён сядзеў бы ў Варшаве ці недзе ў іншым месцы і не імкнуўся б у Беларусь. Але як толькі развалілася пасьлявэрсальская Эўропа і ўзьнікла магчымасьць дзейнасьці на карысьць беларускай дзяржаўнасьці, гэты чалавек, калі немцы падыходзілі пад Варшаву, выехаў спачатку ў Люблін (там ён быў кантужаны), потым накіраваўся ў Вільню. Накіраваўся на тэрыторыю, якую займала Чырвоная Армія. Разумееце, у 1939 годзе пачаўся рух беларускіх дзяячоў у іншым напрамку: большасьць уцякала з тэрыторый, занятых Чырвонай Арміяй, на тэрыторыю нямецкай акупацыі. Іваноўскі быў, можа, адзіны, хто з–пад акупацыі ўцякаў на ўсход. Гэта цікавая справа: некалькі чалавек было ў кастрычніку арыштавана, сярод іх Антон Луцкевіч[9]. Іваноўскага ніхто не арыштоўваў ні тады, ні ў 1940, ні ў 1941 гадох, калі ў Вільні была ўжо савецкая ўлада. Ён быў савецкім прафэсарам, працаваў у Віленскім унівэрсытэце, вашы публіцысты і гісторыкі пісалі, што ў той час ён сядзеў у Бэрліне і быў старшынём ці намесьнікам старшыні Беларускага камітэту, а пазьней быў прывезены немцамі ў Беларусь...

Яшчэ ў верасьні 1941 году Іваноўскаму прапанавалі заняць пасаду бурмістра Менску. Але ён чакаў. Чакаў, як будуць разьвівацца падзеі. У яго была канцэпцыя — пра гэта я пісаў у кнізе “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”: ён спадзяваўся, што акупацыя будзе часовай, што абодва бакі — і нямецкі, і савецкі — дастаткова вынішчацца ў гэтай вайне і што мір ува Ўсходняй Эўропе будуць ладзіць заходнія саюзьнікі. На добры лад, ён памыліўся на 50 гадоў. Калі я гляджу на тое, што адбываецца сёньня, дык думаю, што Іваноўскі памыліўся толькі на 50 гадоў. Але сам я лічу, што, калі б немцы захапілі тады Маскву, калі б Чырвоная Армія капітулявала, Іваноўскі не паехаў бы ў Менск. Тады не было б магчымасьці палітычнай гульні...

Ну што ж, падчас акупацыі ў яго былі вельмі добрыя адносіны з Кубэ. Абодва яны былі інтэлігентнымі людзьмі, і я ўпэўнены, што Іваноўскі меў вялікі ўплыў на прабеларускія сымпатыі самога Кубэ. Мае словы могуць гучаць дзіўна, але калі мы ацэньваем акупацыйную палітыку ў Беларусі, дык перш за ўсё я бачу розьніцу паміж бэрлінскай палітыкай і палітыкай Кубэ. Бэрлін амаль не заўважаў Беларусі. Для яго гэта было нешта неакрэсьленае, нешта вельмі слабое. І Розэнбэрг, міністар акупаваных абшараў, ня ведаў, што з гэтай Беларусьсю рабіць. Ён лічыўся з тым, што будзе створана фэдэрацыя балтыйскіх дзяржаў, Украінская дзяржава; ну а Беларусь, якая ня мае ніякага нацыянальнага руху, дзе сьвядомасьць мізэрная? У лепшым выпадку там можа быць нейкая аўтаномія. Была нават думка арганізаваць там запаведнік... Ніякай канцэпцыі не было, і зь цягам часу гэтае яго нігілістычнае стаўленьне паглыблялася, да чаго прыкладалася, дарэчы, і партызаншчына. Як Бэрлін мог ставіцца да краіны, у якой амаль увесь мясцовы адміністрацыйны апарат апынуўся ў руках небеларускіх? Гэта значыць — у Заходняй Беларусі — у польскіх, а на ўсходзе, можна сказаць, — у савецкіх. На ўсходзе не было ўвогуле ніякіх нацыянальных намаганьняў, кажучы агулам. І тут адзін Кубэ разумеў гэтую справу. Ён імкнуўся (гэта пацьверджана дакумэнтальна), дакладней, яму рабілі закіды, што ён імкнецца да стварэньня беларускай дзяржавы зь Ермачэнкам як прэм’ер–міністрам. Кубэ пад уплывам Іваноўскага зрабіў шмат дзеля ажыўленьня гэтага прыгнечанага, падаўленага пачуцьця нацыянальнай самасьвядомасьці. Так, Розэнбэрг лічыўся з тым, што арганізацыі моладзі могуць быць створаныя ў Эстоніі, Латвіі і Літве. А ў Беларусі і на Ўкраіне — не. Кох на Ўкраіне з гэтым пагаджаўся, як і генэральны камісар Літвы Рэнтэльн, які сказаў, што літоўская арганізацыя моладзі садзейнічала б умацаваньню літоўскага нацыяналізму, і

[9] Арышты беларускіх дзяячоў у Вільні пачаліся ў канцы верасьня 1939 г. Луцкевіча схапілі 30 верасьня. — *А.С.*

таму яе не дазволіў. Затое Кубэ рабіў на Беларусі ўсё, каб такая арганізацыя паўстала. Ішло гэта цяжка, але нарэшце Бэрлін даў дазвол, і Саюз беларускай моладзі быў створаны. Гэта было неспадзяванкай нават для саміх немцаў, таму што ані латыская, ані эстонская арганізацыі моладзі не праяўлялі такой актыўнасьці, не дасягнулі такіх памераў, як СБМ. Нямецкі дасьледчык Гэрцаг у сваёй працы пра маладзёжныя арганізацыі на акупаваных тэрыторыях былога СССР разглядае арганізацыі Літвы, Беларусі і Эстоніі, прычым СБМ займае прыблізна 70 працэнтаў аб'ёму ўсяе кнігі.

Іваноўскі меў значны ўплыў на Кубэ, але ягоныя адносіны з большасьцю прадстаўнікоў беларускай адміністрацыі былі вельмі складаныя. Тыя людзі баяліся канкурэнцыі, асабліва Ермачэнка, бо Астроўскі ўжо ўцёк з генэральнай акругі ў ваенную зону, у Смаленск. Затое засталіся "астроўшчыкі". Я магу паказаць данос — нямецкі паліцэйскі рапарт, зроблены на падставе даносу аднаго з тых людзей, у якім гаворыцца, што Іваноўскі — вораг, польскі агент, што ён падпарадкоўваецца віленскаму архібіскупу Ялбжыкоўскаму, што ўсе ягоныя намаганьні беларусізацыі Каталіцкай царквы ўдаваныя... Адносіны Іваноўскага з тымі коламі былі няпростыя. Нават Вінцэнт Гадлеўскі яго не хацеў. Яго не прымалі ў Галоўную раду БНС — гэтага не хацеў Ермачэнка. Яго дакааптавалі да Рады толькі пасьля ўмяшальніцтва Кубэ. Іваноўскі кіраваў толькі гарадзкой управай. Гэта была важная пасада, але толькі ў Менску, а па–за межамі гораду ён ня мог ні на што ўплываць...

Іваноўскі быў сьмяротна паранены Аляксандрам Камінскім, былым паліцаем, перабегшым да партызан, 6 сьнежня 1943 г. Але аб падрыхтоўцы гэтай акцыі Готбэрг — генэральны камісар Беларусі, прызначаны пасьля забойства Кубэ, — ведаў за два тыдні. Немцы ведалі ўсё. Аб гэтым можна гаварыць шмат...

Камінскі ўцёк у лес разам з сваёй дзеўкай — Алай Навумавай. Пасьля вайны Навумава сядзела ў тайшэцкім "курорце" і тамсама сядзела асуджаная на 25 гадоў Гражына Ліпінская — шэф выведкі АК у Менску падчас акупацыі. Ад Ліпінскай я чуў: Навумава тады, у 1949 годзе, расказала ёй усе акалічнасьці: як Камінскі вярнуўся з апэрацыі і расказваў у партызанскім лягеры, як ён усё зрабіў. У 1960 годзе ў вас выйшла праца аб менскім падпольлі, і там, між іншым, апісвалася, як партызаны забілі ворага народу Іваноўскага, але выканаўца пакуль што невядомы. Іван Новікаў, аўтар кнігі "Дарогі скрыжаваліся ў Мінску", напісаў, што Камінскі загінуў абсалютна выпадкова перад самым вызваленьнем. Але ж Навумава гаварыла Ліпінскай: іх разьдзялілі пасьля вайны, яе арыштавалі, судзілі і саслалі, але яна ведала, што пасьля прыходу Чырвонай Арміі Камінскі быў жывы. Гэта сьведчыць аб тым, што загінуў ён ня "пяць хвілін да дванаццаці", а, верагодна, пяць хвілін пасьля дванаццаці. Я не выключаю, што яго як сьведку маглі проста расстраляць перад атрадам, як расстрэльвалі многіх былых паліцаяў.

Гавораць, што гісторыя Беларусі — гэта гісторыя нявыкарыстаных магчымасьцяў. Але забойства Іваноўскага, як і незадоўга перад тым забойства Кубэ, ніяк не магло паўплываць на разьвіцьцё падзеяў. Чырвоная Армія імкнулася наперад, заняўшы ўжо 20 працэнтаў тэрыторыі Беларусі. Готбэрг у Менску мініраваў аб'екты. Але рэч тут хутчэй у іншым. Успомнім Астроўскага. Ён быў вельмі здольным палітыкам. Дэмагогія, прапаганда ў палітыцы — зьявы нармальныя. Карыстаючыся імі, ён здолеў выкарыстаць усё тое, што было зроблена да тае пары, і пакінуць міт — міт аб створанай ім беларускай дзяржаўнасьці. А тое, што часам гінулі людзі, якія знаходзіліся на яго дарозе (а было такіх некалькі і сярод іх ня выключана, што і Іваноўскі), дык мараль і палітыка — гэта розныя рэчы.

Я не апраўдваю Астроўскага. Але ён зрабіў тое, што выклікае зьдзіўленьне дагэтуль. Людзі фармуюць свае ўяўленьні пад узьдзеяньнем таго, што бачаць. А стварэньне БЦР выглядала вельмі эфэктна: поўная незалежнасьць Беларусі, дасягнутая ўва ўмовах варожай акупацыі. Украіна ці балтыйскія рэспублікі не маглі нават марыць аб гэтым! Канечне, дасьледчык, паглядзеўшы дакумэнты, зразумее, што гэта была фікцыя...

Я згодны з трактоўкай вашымі гісторыкамі падзеяў часоў Астроўскага. Але гісторыі

патрэбны міты. Гэта ня мае нічога агульнага з навукай, так. Але трэба ўважаць: менавіта міты маюць найбольшы ўплыў на сьвядомасьць грамадзтва — міт аб дзяржаве, створанай Беларускай цэнтральнай радай, міт пра армію, якой так і ня стала Беларуская краёвая абарона...

Увогуле, міты як частка гісторыі Беларусі працягваюць існаваць. Адзін зь іх — Беларуская сялянска–работніцкая грамада, яе дзейнасьць у 1925—1927 гадох у Заходняй Беларусі. Колькі ўжо напісана пра ўздым, пра масавасьць Грамады, пра суды над актывістамі... Яна дзейнічала няпоўныя два гады, але гэта было эфэктыўна! І ў сувязі з тым пачаў ствараццa міт. Цяпер гавораць, што гэта была нацыянальная беларуская партыя, да якой хацелі прымкнуць камуністы, каб пераняць кіраваньне. І людзі ўвогуле адкідаюць думку пра тое, што была Данцыская канфэрэнцыя[10], на якой былі вырашаны ўсе справы кіраваньня і фінансаваньня гэтай Грамады Камінтэрнам. Не дапускалася нават думка, што гэта была прыбудоўка да кампартыі, не, бо гэта непрыгожа. Бо значыць, што быў рух, які накіроўвала і фінансавала кампартыя. Калі на гэта ёсьць доказы, яны як невыгодныя адкідаюцца. Менавіта ў такім напрамку прадстаўлялася справа Грамады на эміграцыі. Дзеля ўмацаваньня гэтага міту шмат папрацаваў і Астроўскі. А цяпер я бачу, як гэты міт распаўсюджваецца і ў Беларусі. У вас нядаўна быў выдадзены першы том выданьня “Идеологическая деятельность компартии”[11] — другі зьявіцца наўрад. Дык вось, там дакладна напісана, як усё вырашалася ў партыйных кабінэтах у Менску, менавіта там.

Але вернемся да міту пра Вацлава Іваноўскага. Кім у сапраўднасьці быў гэты чалавек?

Перш за ўсё, ён адыграў вялікую ролю ў абуджэньні нацыянальнай сьвядомасьці. Ад пачатку стагодзьдзя да першай сусьветнай вайны нешта каля паловы кніжак, выдадзеных на беларускай мове, выйшлі ў сьвет праз яго намаганьні. Палітычныя лёзунгі? Не, ён гэтым не займаўся. Толькі праца — эканамічная і культурная — кнігі як сродак пашырэньня сьвядомасьці. Далей — палітычная дзейнасьць у гады першай сусьветнай вайны. Наўрад ці хто іншы мог зрабіць больш. Іваноўскі быў прыхільнікам непапулярнай сёньня ідэі адзінай эканамічнай прасторы. Ён разьлічваў на эканамічнае супрацоўніцтва з Расеяй, на партнэрскае супрацоўніцтва. Разам з тым ён разьлічваў, што беларускай дзяржавай будуць кіраваць беларусы, а ня людзі, прызначаныя з Масквы.

А што датычыць акупацыі... Нядаўна былі апублікаваныя ўспаміны Хрушчова аб тым, што ў канцы 1941 году Сталін быў гатовы заключыць зь Нямеччынай новы Берасьцейскі мір і, між іншым, перадаць у нямецкую сфэру ўплыву Беларусь. У сваю чаргу Гітлер першапачаткова гаварыў аб стварэньні на ўсходзе новых дзяржаваў, дзяржаваў сацыялістычных, бо, паводле ягоных слоў, рэвалюцыя выклікае такія зьмены ў сьвядомасьці людзей, не зважаць на якія немагчыма. Вайна толькі пачыналася, яе жудасныя вынікі былі наперадзе, а тады размова магла пайсьці аб зьмене цэнтру з Масквы на Бэрлін. І былі людзі (і сярод іх — Іваноўскі), якія лічылі: праз супрацоўніцтва з такімі, як Кубэ, яны могуць атрымаць нейкі шанец — хай нават невялікі. Паводле іх меркаваньняў, быў бы прынамсі спынены працэс зьнішчэньня мовы і сьвядомасьці народу, ягонай русіфікацыі. Так не адбылося. Гісторыя пайшла сваім шляхам, але мы мусім ведаць, чым кіраваліся тыя людзі.

Калі Беларусь мае быць ператворана ў калёнію, тады ўсё ў парадку: Іваноўскі быў ворагам, Кубэ быў ворагам, усе акупанты былі злачынцамі. Але калі вы думаеце пра інтарэсы дзяржавы, нацыі, мовы, культуры, дык трэба памятаць тых, хто гэтыя інтарэсы абараняў. На мой погляд, Іваноўскі ня быў палітыкам. Ён быў нацыянальным дзеячом у лепшым сэнсе гэтага слова і менавіта таму ня здолеў паразумецца з палітыкамі. Ён прайграў.

*Друкуецца паводле:* ЛіМ. 1992. 16 кастрычніка.

[10] Канфэрэнцыя праходзіла ў Сопаце пад Данцыгам (Гданьскам), таму яе называюць яшчэ Сопацкай. — *А.С.*

[11] Поўная назва кнігі, якая выйшла ў сьвет у 1990 г., такая: Идеологическая деятельность Компартии Белоруссии, 1918—1945. В двух частях. Часть 1. 1918—1928. Другая частка выдадзена не была. — *А.С.*

# Вацлаў Іваноўскі ў Пецярбургу (1899—1913 г.)

У XIX ст. працэс беларускага нацыянальнага адраджэньня цягнуўся марудна і заставаўся зьявішчам эфэмэрным і амаль незаўважным. Звычайна гэта тлумачыцца спасылкамі на царскія рэпрэсіі, асабліва забаронаю выдавецкай дзейнасьці, а таксама адсутнасьцю нацыянальнага “П’емонту” за мяжой, якім для літоўцаў была Ўсходняя Прусія, а для ўкраінцаў — Галіччына. Напэўна, гэта былі важныя акалічнасьці, аднак найгалоўнейшай перашкодаю на шляху беларускага нацыянальнага руху была парадаксальная ідэалягічная сытуацыя: у краіне, дзе пасьля ліквідацыі царкоўнай уніі пераважала новаправаслаўнае насельніцтва, праваднікамі гэтага руху сталі галоўным чынам прадстаўнікі каталіцкай шляхты. Яны, хаця і ўсьведамлялі сваю этнічную самастойнасьць, усё ж не змаглі ўзьняцца па–над рэлігійным бар’ерам, рэальна ацаніць існае становішча і сфармуляваць агульнанацыянальную праграму культурнай і палітычнай дзейнасьці, прымальную як для адной, так і для другой часткі грамадзтва, асабліва для праваслаўнай большасьці.

Беларуская паэзія XIX ст., апрача абмежаванай папулярызацыі мовы, не адыграла ў гэтым працэсе вялікай ролі, звычайна не выходзіла па–за рамкі этнаграфізму і сацыяльна–бытавой праблематыкі, якая асьвятлялася з пазыцыяў клясавай згоды паміж памешчыцтвам і сялянствам. Падчас паўстаньня 1863 г. зьявілася беларускамоўная агітацыйная публіцыстыка, накіраваная на тое, каб далучыць сялян да ўзброенай барацьбы з царызмам. Аднак пры ўсім тым не заўважалася якіх–колечы істотных з нацыянальнага пункту гледжаньня ідэйных адрозьненьняў паміж прыхільнікамі кансэрватыўнага і радыкальнага крыла паўстаньня на Беларусі і Літве. Узаемныя супярэчнасьці ўзьнікалі сярод іх у аграрным пытаньні, што ж датычыць астатняга, дык літаратура абедзьвюх плыняў ідэалізавала былую Рэч Паспалітую, была скіравана на абарону Каталіцкай царквы і прапагандавала супольнасьць палітычных інтарэсаў Польшчы і Беларусі ў якасьці польскай правінцыі. Палымяны заклік Каліноўскага да беларускага народу змагацца за свае правы — “бо тагды толькі жыць будзеш шчасьліва, калі ўжэ маскаля над табой ня будзе” — гэта яшчэ не дэклярацыя незалежнасьці, бо абмінае ня менш важнае пытаньне польскай гегемоніі. Нават крытыка грамадзкай несправядлівасьці ў адозвах радыкалаў (“Мужыцкая праўда” ды інш.) мае выразны антырасейскі характар, аднак ашчаджае мясцовых памешчыкаў.

Беларускае пісьменства XIX ст. разьвіваецца, галоўным чынам, у рэчышчы польскай палітычнай думкі і польскай барацьбы за незалежнасьць. Таму ў ім прасочваецца вострая антыправаслаўная тэндэнцыя, якая, зразумела, значна абмяжоўвала ягоны ўплыў на праваслаўную інтэлігенцыю і, у выніку, ня мела пашырэньня сярод пераважнай часткі беларускага люду. Усё гэта аблегчыла задачы расейскага супрацьдзеяньня і паўплывала на зьяўленьне ў другой палове XIX ст. іншага ідэйнага кірунку пад назваю “западнорусизма”, які пры падтрымцы ўладаў спрабаваў прадставіць Беларусь як спрадвечна расейскі край і абгрунтаваць законнасьць расейскага панаваньня. Гэтая плынь аб’яднала прадстаўнікоў беларускай праваслаўнай інтэлігенцыі, якія, нягледзячы на палітычную арыентацыю, шмат зрабілі ў галіне этнаграфіі, мовазнаўства, краязнаўства і гісторыі Беларусі. Усё гэта паўплывала на разьвіцьцё палітычнай думкі і вылілася ў дзейнасьць беларускіх народавольцаў. Так беларуская палітычная думка зь цяжкасьцю прабівала сабе дарогу сярод польска–расейскай ідэйнай барацьбы і да канца XIX ст. рухалася ў двух паралельных напрамках, не знаходзячы пунктаў сутыкненьня. Нават родная мова доўгі час не магла стаць агульнай плятформай для супольных дзеяньняў. Праўда, прадстаўнікі каталіцка–шляхецкага кірунку больш зрабілі дзеля яе пашырэнь-

ня, аднак цяжка адназначна акрэсьліць, у якой ступені гэтая іх дзейнасьць была толькі спробаю супраціву расейскай экспансіі. Нарэшце, аніводзін з будзіцеляў XIX ст. ня ўзяўся за стварэньне беларускага лемантара (буквара), гэтага найпрасьцейшага зыходнага пункту разьвіцьця нацыянальнай культуры. Усё гэта неабходна ўлічыць, ацэньваючы дзейнасьць Вацлава Іваноўскага, які не абмежаваўся фармуляваньнем прыгожых ідэяў аб стварэньні беларускай нацыі і будаўніцтве маладой Беларусі, але першы пачаў гэтыя ідэі ператвараць у рэчаіснасьць.

Вацлаў Іваноўскі нарадзіўся ў 1880 г. у фальварку Лябёдка, што на Лідчыне, у дваранскай сям'і. На яго нацыянальнае ўсьведамленьне ўплывала хатняе выхаваньне ў духу традыцыяў Вялікага Княства Літоўскага, пражываньне ў Лябёдцы, у Красным Воронескай губэрні і ў Варшаве, г.зн. сярод беларускага, расейскага і польскага этнасу, і, урэшце, прыклад разьвіцьця нацыянальнага руху бліжэйшых суседзяў — палякаў і літоўцаў.

Пасьля заканчэньня гімназіі ў Варшаве Іваноўскі ў 1899 г. скіраваўся ў Пецярбург, дзе жыў (па адрасе 6–я рота, дом 10) разам з бацькам, высокімураднікам сельскагаспадарчага ведамства. У Пецярбургу паступіў на хімічны факультэт Тэхналягічнага інстытуту, які закончыў у 1904 г., пасьля чаго да лета 1913 г. быў навуковым супрацоўнікам гэтага інстытуту і іншых пецярбурскіх вышэйшых навучальных установ. Званьне доктара тэхнічных навук атрымаў у 1909 г. на палітэхніцы ў Мюнхэне.

Ужо ў першыя гады вучобы Іваноўскі арганізаваў у Пецярбургу беларускі гурток, на аснове якога на пачатку 1902 г. была створана нелегальная сацыялістычная арганізацыя — Беларуская рэвалюцыйная партыя (БРП), якая распачала выдавецкую дзейнасьць. Багатых мэцэнатаў не было, таму выдаваць друкаваныя публікацыі яна не магла. Не ставала ня толькі дасьведчаных публіцыстаў — не было нават элемэнтарных граматычных і правапісных правілаў беларускай мовы. Апрача таго, ніводзін з маладых пачынальнікаў руху ня быў знаёмы з тэхнікай нелегальнай працы. Але гэтыя цяжкасьці не палохалі маладога Іваноўскага. Ён пачаў з самай неабходнай рэчы — купіў гектограф. На гэта пайшоў увесь ягоны заробак з студэнцкай практыкі.

Першай публікацыяй БРП стала адозва "Да інтэлігенцыі", якая заклікала выхаваную ў польскай культуры маладую інтэлігенцыю Беларусі да ўдзелу ў адраджэнскай працы і пастулявала арганізацыю гурткоў дзеля вывучэньня роднай мовы, краязнаўства, гісторыі, аказаньне матэрыяльнай падтрымкі для літаратараў, прадугледжвала збор сродкаў на выдавецкую дзейнасьць і стварэньне сеткі кальпартажу.

Наступнай ініцыятывай Іваноўскага была спроба нелегальна выдаць часопіс "Свабода", які быў задуманы як орган БРП. Ажыцьцяўленьню гэтай задумы спрыяла павелічэньне кола беларускай моладзі ў Пецярбургу. У 1902 г. сюды прыбылі браты Іван і Антон Луцкевічы, Алёйзія Пашкевічанка. Адным з самых блізкіх супрацоўнікаў Іваноўскага быў таксама пецярбурскі гімназіст Вінцэнт Валейка родам з фальварку Галавічполь, што знаходзіўся побач зь Лябёдкаю. У сьнежні 1902 г. "Свабода" была адбіта на гектографе (200 асобнікаў), але канец задумы быў няўдалы: яна не дайшла да чытача. Так што гэты часопіс мае пэўнае значэньне толькі для вывучэньня поглядаў яго стваральнікаў. Аб іх можам меркаваць на падставе адзінага захаванага фрагмэнту "Свабоды" — верша Сыракомлі "Добрыя весьці", які пасьля пераробкі выдаўцамі атрымаў цалкам новы сэнс, прыстасаваны да новых варункаў рэвалюцыйнай барацьбы. Па–першае, антырасейскія акцэнты арыгінальнага тэксту Сыракомлі замянілі на антыцарскія. Радкі арыгіналу "лягчэй будзе сэрцу, як згіне маскаль" або "ня прыйдзе вораг з маскоўскага краю" ў "Свабодзе" атрымалі новае гучаньне: "лягчэй будзе сэрцу, як згіне наш цар" і "ня прыйдзе вораг з чужога краю". Па–другое: ідэя клясавай згоды паміж сялянствам і шляхтай, якую прапагандаваў Сыракомля, саступіла месца рабоча–сялянскай салідарнасьці.

Характэрная перапрацоўка верша "Добрыя весьці" дае падставу меркаваць, што дзя-

ячы БРП, у прыватнасьці, яе стваральнік Іваноўскі, не падтрымлівалі сэпаратыстычных тэндэнцыяў Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). Больш блізкія і зразумелыя былі для іх пастуляты расейскіх рэвалюцыйных колаў, якія падтрымлівалі ідэі ня толькі разбурэньня царызму, але і грунтоўнай перабудовы ўсяго грамадзкага ладу. Гэта магло значыць, што БРП бачыла магчымасьць ажыцьцяўленьня сваіх плянаў не ў адрыве ад Расеі, але ў працэсе рэвалюцыі і дэмакратызацыі грамадзкага жыцьця гэтай дзяржавы.

Такая пазыцыя БРП выклікала вострую рэакцыю ППС і яе публічную крытыку культурна–асьветніцкай арыентацыі беларускай партыі. У выніку, у некаторых яе дзяячоў абуджаліся крытычныя настроі да арыентацыі БРП, што на пачатку 1903 г. давяло да яе расколу. У пэўнай меры паўплывалі на тое таксама асабістыя амбіцыі пецярбурскіх дзяячоў. Вясною 1903 г. Іван Луцкевіч распачаў стварэньне нібыта больш радыкальнай Беларускай рэвалюцыйнай грамады, якая аформілася ў канцы 1903 г.

Пасьля сустрэчы з Луцкевічам Іваноўскі распачаў ажыцьцяўленьне сваёй праграмы пад новай фірмай Круга беларускай народнай прасьветы. Круг выдаў дзьве нелегальныя публікацыі — “Калядную пісанку” і “Велікодную пісанку”. Першая зь іх выйшла перад сьвятам Божага нараджэньня 1903 г., другая — перад Вялікаднем 1904 г. Распаўсюджваць іх меліся студэнты, якія разьяжджаліся на вакацыі да сябе на радзіму.

Большае значэньне для папулярызацыі беларускай літаратуры мела выданьне ў Пецярбургу дзьвюх кніжак: зборніка вершаў Янкі Лучыны “Вязанка” і народных “Казак” накладам па 5000 асобнікаў кожная. Абедзьве кнігі выйшлі легальна, хаця не абыйшлося без маны: “Вязанку” падалі ў цэнзуру як кнігу на баўгарскай мове, а з “Казкамі” як выданьнем фальклёрным клопату не было.

Летам 1903 г. Іваноўскі схіліў Мар’яна Фальскага, студэнта Варшаўскай палітэхнікі, і Сьцяпана Багушэўскага, студэнта Ягелонскага ўнівэрсытэту, да новай выдавецкай задумы: выпуску беларускай літаратуры ў Кракаве, па–за мяжой Расеі. Іх намаганьнямі былі апрацаваны і вясной 1904 г. надрукаваны чатыры публікацыі: “Янка–музыкант” Сянкевіча, “Ведзьма” невядомага аўтара, аб’ёмістая адозва “Царская гаспадарка” і зборнік вершаў Багушэвіча, Пашкевічанкі і Казімера Каставіцкага пад загалоўкам “Песьні”. Патаемнымі сьцежкамі іх перавозілі ў Расею.

Такім чынам, з ініцыятывы Іваноўскага ў 1903—1904 г. у Пецярбургу і Кракаве выйшла ў сьвет восем кніжак. Гэта, натуральна, было мала, але ня менш, чым было выдадзена ў Расеі за ўсю эпоху пасьля паўстаньня 1863 г., і ў такой пэрспэктыве выглядала як сур’ёзнае дасягненьне. Разам з тым выявіліся цяжкасьці з увагі на адсутнасьць адзіных лексычных і правапісных нормаў. І сапраўды, кожны аўтар або перакладчык кіраваўся ў гэтай галіне ўласнай думкай. Прывесьці іх у аднастайную сыстэму стала надзвычай важнай і пільнай справай. Не выпадкова сярод пастулятаў адозвы “Да інтэлігенцыі” на першым месцы стаяла распрацоўка мовазнаўчых пытаньняў і выданьне граматыкі беларускай мовы, для стварэньня якой меркавалася прыцягнуць спэцыялістаў. Мы ня ведаем, ці зьвяртаўся да каго Іваноўскі ў гэтай справе, аднак фактам застаецца, што за гэта ня ўзяўся аніводзін спэцыяліст, у тым ліку Яўхім Карскі, якога сёньня прызнаюць за стваральніка беларускага мовазнаўства.

З гэтай прычыны, а таксама дзеля патрэбаў асьветы Іваноўскі вырашыў заняцца распрацоўкай беларускага лемантара, які ў нейкай ступені мог бы прылагодзіць адсутнасьць граматыкі і стаць своеасаблівым лінгвістычным даведнікам для аўтараў і выдаўцоў. Гэтую задуму плянаваў ён даўно, але ажыцьцяўляць яе пачаў толькі ў другой палове 1904 г. падчас пасьлядыплёмнай практыкі на цукроўні ў Баравічках пад Плоцкам. Аб гэтым наступную цікавую інфармацыю пакінула Марыя Альтбэрг–Арнольдава, сястра калегі Іваноўскага, Люцыяна Альтбэрга:

Люцыян часта бываў у Іваноўскага ў Баравічках і бачыў, як ён карпеў над складаньнем беларускага лемантара. Брат гаварыў пра гэта часта і з пэўнай іроніяй, маўляў, гэта дзяцінства, фантазіі: “Такі сур’ёзны чалавек займаўся беларускім лемантаром! Ды гэта ж дыялект, а ня мова!..” Ах, калі б брат быў разумнейшы, ён бы ведаў, што нават адзін чалавек у гэтай справе мог зрабіць пераварот. Бо з гэтага лемантара вырасла цяпер уся беларуская літаратура.

Працуючы над лемантаром, Іваноўскі мусіў заняцца распрацоўкай беларускай мовазнаўчай тэрміналёгіі ў неабходным для лемантара аб’ёме. Зь цягам часу гэтыя базавыя тэрміны ўдасканальваліся, але большасьць засталася трывалым здабыткам беларускага мовазнаўства і была прынята або ў тым самым гучаньні, або зь невялікімі фанэтычнымі і марфалягічнымі зьменамі. Замест ранейшых cz, sz, ż у лацінскім варыянце лемантара ўводзіліся новыя знакі č, š, ž, напэўна, дзеля таго, каб адрозьніць беларускую лацінку ад польскага алфавіту. Гэтую працу Іваноўскі завяршыў у 1905 г. і перадаў яе Кастравіцкаму, каб той падрыхтаваў варыянт кірыліцай. Цікава заўважыць, што выданьне “Беларускага лемантара” таксама плянавалася нелегальна, хутчэй за ўсё, па–за межамі Расеі.

Аднак неўзабаве такой неабходнасьці ўжо не было: у сьнежні 1904 г. цар Мікалай II падпісаў указ, згодна зь якім здымаліся ранейшыя абмежаваньні на выкарыстаньне беларускай мовы, што дазволіла распачаць легальную выдавецкую дзейнасьць. Гэтую магчымасьць Іваноўскі выкарастаў хутка і пасьпяхова, на што ў вялікай меры паўплываў вопыт яго выдавецкай дзейнасьці ў нелегальных умовах. Яго заслугай было стварэньне ў Пецярбургу выдавецкай суполкі “Загляне сонца і ў наша аконца”, якой ён кіраваў да ліпеня 1913 г., да выезду ў Вільню, дзе ён яшчэ з большай інтэнсіўнасьцю працягваў выдавецкую дзейнасьць.

Была гэта цэлая эпоха ў разьвіцьці беларускага адраджэнскага руху, паралельная дзейнасьці “Нашай Нівы”. Вацлаў Іваноўскі як піянэр гэтага руху адыграў выдатную ролю. Ён вярнуў з забыцьця лепшыя творы беларускай літаратуры XIX ст., даў беларускаму чытачу шэраг перакладаў з польскай, расейскай і ўкраінскай літаратуры, узьвёў на радзімы Парнас прарока нацыянальнага адраджэньня Янку Купалу, Цётку, падтрымліваў творчасьць маладых паэтаў і празаікаў і такім чынам садзейнічаў нараджэньню і разьвіцьцю новай беларускай літаратуры. Выдадзеныя ім падручнікі на цэлае дзесяцігодзьдзе апярэдзілі зьяўленьне легальных беларускіх школаў, а сэрыя выдадзеных драматычных твораў дапамагла станаўленьню аматарскіх тэатральных трупаў. Дзякуючы ягоным стараньням беларускі земляроб упершыню атрымаў сельскагаспадарчую літаратуру на роднай мове.

Гэты рух уплываў на пашырэньне нацыянальнай сьвядомасьці. У 1910 г. віленскі публіцыст Часлаў Янкоўскі лічыў, што, нягледзячы на русіфікацыю і апалячваньне, самы вялікі шанец на здабыцьцё сымпатыяў народных масаў — за беларускай нацыянальнай справай. “Шмат людзей уплыве зь яе рук на ўсход і захад, — пісаў ён, — але і тое, што застанецца, можа зь цягам часу скласьці цалкам значны народ”. Зьяўленьне такіх ацэнак напярэдадні першай сусьветнай вайны адлюстроўвала імклівы поступ нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларусаў, да чаго ў вялікай меры прычыніўся Вацлаў Іваноўскі сваёй выдавецкай і выхаваўчай працай.

*Друкуецца паводле:* Белорусский сборник. Статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Вып. 1. Российская Национальная Библиотека. Санкт–Петербургская Ассоциация Белорусистов. Санкт–Петербург, 1998.

# Прарасейскі выбар Беларусі

Вясной 1991 г. амаль 80% насельніцтва Беларусі на рэфэрэндуме выказалася за тое, каб гэтая рэспубліка засталася ў складзе СССР. Тады можна было падазраваць, што гэта было наступствам статыстычнай маніпуляцыі ўладаў, зацікаўленых акурат у такім выніку рэфэрэндуму. Аднак такіх сумневаў не было ў наступныя гады, калі ў варунках палітычнага лібэралізму і пры ўдзеле замежных назіральнікаў беларуская нацыя, а дакладней, пераважная яе бальшыня, маніфэставала прарасейскі выбар ці выбіраючы на прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнку, прыхільніка інтэграцыі з Расеяй, ці адмаўляючыся ад нацыянальнай сымболікі і наноў уводзячы ў якасьці дзяржаўнай расейскую мову, толькі тэарэтычна раўнапраўную зь беларускай.

Такая пазыцыя пераважнай бальшыні беларусаў наконт ключавых аспэктаў дзяржаўнага і культурнага жыцьця выклікала фрустрацыю сярод нацыянальных дзяячоў у краіне і на эміграцыі. Прычыну сытуацыі, якая склалася, бачылі галоўным чынам у ініцыятывах і дзеяньнях прэзыдэнта Лукашэнкі, мінімалізуючы ці замоўчваючы ролю сьвядомасьці нацыі, якая сфармавалася на працягу 200 гадоў жыцьця беларусаў у Расейскай імпэрыі і СССР.

Нацыянальная сьвядомасьць, якая ёсьць адным з найважнейшых чыньнікаў змаганьня за ўласную дзяржаўнасьць, пачала ўкараняцца сярод беларусаў толькі на пачатку XX стагодзьдзя. Усё папярэдняе стагодзьдзе працэс беларускага нацыянальнага адраджэньня разьвіваўся надзвычай павольна і, нягледзячы на патэнцыйную грамадзкую базу ў выглядзе беларускамоўнай шляхты і духавенства, заставаўся эфэмэрнай і амаль незаўважнай зьявай.

Звычайна гэта тлумачыцца рэпрэсіўнай палітыкай царызму і адсутнасьцю нацыянальнага “П’емонту” за мяжой, якім для літоўцаў была Ўсходняя Прусія, а для ўкраінцаў — Галіччына. Безумоўна, гэта былі важныя акалічнасьці, аднак найбольшым тормазам беларускага руху была парадаксальная ідэалягічная сытуацыя: у краіне, дзе пераважная частка насельніцтва праваслаўная, абуджальнікамі нацыянальнай сьвядомасьці былі пераважна прадстаўнікі каталіцкай шляхты. Таму беларуская літаратура XIX стагодзьдзя разьвіваецца пераважна ў рэчышчы польскай палітычнай думкі і польскай незалежніцкай барацьбы з Расеяй. У сілу гэтых абставінаў у ёй выяўляліся выразныя антыправаслаўныя тэндэнцыі, што ў выніку абмяжоўвала яго ўспрыняцьце праваслаўнай інтэлігенцыяй і такім чынам пазбаўляла ўплыву на пераважную частку беларускага народу. Гэта палягчала расейцам процідзеяньне прывяло ў другой палове XIX стагодзьдзя да ўзьнікненьня другой ідэалягічнай плыні — заходнерусізму, прадстаўнікі якога разглядалі беларускі рух як польскую інтрыгу, мэтай якой было разбурэньне адзінства праваслаўнай Русі.

Таму на пачатку XX стагодзьдзя новае пакаленьне нацыянальных дзяячоў усьведамляла, што без прыняцьця руху праваслаўнай бальшынёй ня можа быць гаворкі пра яго пашырэньне ў Беларусі. Канцэпцыю адзінай нацыі ў 1904 г. Вацлаў Іваноўскі — творца першага буквара сучаснай беларускай мовы — прапагандаваў так:

> Ци раз у нас сварка бывае: зыдуцца каталик з праваслаўным и сваруцца “ах ты, кажэ, паляк, — а ты маскаль”. И абодва ня ведама што кажуць: ани той паляк, ани гэты маскаль, абодва яны хоць рознае веры, а народу аднаго, бо абодва вырасли на зямельцы тутэйшай палескай — беларускай и першае слова ў мови нашай бацькаўскай ад бацькоў пачули, а сваруцца тольки сабе на крыўду и на сорам, людзям на сьмех. Вось і знарок выдаем лемэнтар дваякими знаками, выбирай, што

спанараўна, каб усяки пазнаў, што ци такие, ци сякие знаки, а зыки, склады и словы тыеж, мова — таяж и людзи што мовай адной гаворуць — браты родные[1].

Гэта была новая канцэпцыя, якая мела на мэце стварэньне агульнабеларускай нацыянальнай сьвядомасьці па–над канфэсійнымі падзеламі. У гады перад першай сусьветнай вайной у гэтай справе было нямала зроблена, і нацыянальная думка стала сур'ёзнай альтэрнатывай заходнерусізму. Аднак за такі кароткі час яна не магла зьдзейсьніць значных зьменаў у масавай сьвядомасьці, збольшага абмяжоўваючыся здабыцьцём прыхільнасьці часткі інтэлігенцыі.

У такой сытуацыі беспасярэдне пасьля падзеньня царызму ў Расеі дзяячы беларускага руху, рэальна ацэньваючы свае магчымасьці, не прэтэндавалі на дзяржаўную незалежнасьць[2]. Створаны ў сакавіку 1917 г. у Менску Беларускі нацыянальны камітэт стаяў на пазыцыі аўтаноміі Беларусі ў рамках рэспубліканскай Расеі, аднак нават гэтыя сьціплыя патрабаваньні былі адкінутыя Часовым урадам, які, як і царызм, не прызнаваў адметнасьці беларускай нацыі.

Дзеялі таксама ўнутраныя супярэчнасьці. Гэтак, выкарыстоўваючы тую акалічнасьць, што кіраўніком Камітэту быў буйны земляўласьнік Раман Скірмунт, а прынамсі палову яго чальцоў складалі каталікі, апазыцыйныя сацыялістычныя дзяячы распачалі на сялянскіх зьездах і рабочых сходах энэргічную кампанію дэскрэдытацыі БНК як польска–каталіцка–памешчыцкай інтрыгі, якая мела на мэце адарваць Беларусь ад Расеі і паняволіць беларускіх сялян польскімі панамі. У выніку гэтай кампаніі і растучай радыкалізацыі грамадзкіх настрояў у ліпені 1917 г. быў створаны іншы прадстаўнічы орган — Цэнтральная рада беларускіх арганізацыяў, якая мела прадстаўляць толькі “прагрэсіўныя” групоўкі з выключэньнем такіх “рэакцыянэраў”, як хадэцкія дзяячы і прадстаўнікі сялянства.

Выразам прарасейскага, нават прасавецкага выбару бальшыні тагачасных дзяячоў быў склікаены ў сьнежні 1917 г. усебеларускі зьезд, вакол якога зь цягам часу парасло нямала мітаў. Гэты зьезд неўзабаве быў разагнаны бальшавікамі, што абумовіла “тэзу” савецкай гістарыяграфіі, быццам ён меў антыбальшавіцкі, антысавецкі, а таму буржуазны і сэпаратысцкі характар, што ахвотна прынялі нацыянальныя гісторыкі, прычым і тыя, і іншыя фальшавалі рэзалюцыю зьезду, якую ён пасьпеў ухваліць перад разгонам. Яна гучала наступным чынам:

Замацоўваючы сваё права на самавызначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй і зацьвярджаючы дэмакратычны рэспубліканскі лад у межах Беларускай зямлі, для ўратаваньня роднага краю і захаваньня яго ад падзелу і адарваньня ад Расейскай Дэмакратычнай Фэдэрацыйнай Рэспублікі I ўсебеларускі зьезд пастанаўляе: безадкладна ўтварыць із свайго складу орган краёвае ўлады ў выглядзе Ўсебеларускай рады сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова стаецца на чале кіраўніцтва краем, уваходзячы ў зносіны з цэнтральнай уладай, адказнай перад Радай рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў[3].

Такім чынам, зьезд ня быў ні антысавецкім, бо ён стварыў савецкі орган улады ў Беларусі, ні сэпаратысцкім, бо ён выказаўся супраць адарваньня Беларусі ад Расеі. Апроч гэтага, аб характары зьезду сьведчыць тое, што падчас паседжаньняў яго старшы-

[1] Беларускі лемантар, або Першая навука чытаньня. Пецярбург, 1906. С. 4—5 (лацінка) і с. 6—7 (кірыліца).

[2] Гаворка ідзе пра дзяячоў ува Ўсходняй Беларусі. На тэрыторыі, акупаванай немцамі, ідэя незалежнасьці ўжо высьпела, але гэта была ідэя незалежнасьці Беларусі і Літвы. Гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. Мінск, 2003. С. 12—17; Сідарэвіч А. Антон Луцкевіч: ад краёўства да незалежніцтва (1916—1918). Агляд крыніцаў // ARCHE. 2006. № 1—2. — *А.С.*

[3] Беларуская Рада. 1917. № 12.

ня падтрымліваў тэлефонны кантакт з народным камісарам у справах нацыянальнасьцяў Сталіным, з згоды якога зьезд быў скліканы. Таксама і Ландэр, старшыня Рады народных камісараў Заходняй вобласьці ў Смаленску[4], сьцьвярджаў, што зьезд "у прынцыпе выказаўся за прызнаньне савецкай улады". Сапраўднай прычынай разгону была спроба зьезду стварыць у Беларусі беларускі орган савецкай улады заміж прэтэндуючых на ролю носьбітаў улады прызначаных Леніным чужых камісараў[5], якія не прызнавалі права беларускай нацыі на самавызначэньне.

Пасьля разгону зьезду сярод беларускіх дзяячоў, якія арыентаваліся на савецкую Расею, выявіўся сур'ёзны крызіс даверу. Гэта спрыяла пашырэньню сярод гэтых дзяячоў незалежніцкіх тэндэнцыяў, хоць вялікая іх частка надалей спадзявалася на Расею, выходзячы з прыпушчэньня, што ў канцавым выніку толькі яна будзе вырашаць долю Беларусі.

У лютым 1918 г. пасьля заняцьця Менску нямецкімі войскамі выйшаў з падпольля створаны Радай Усебеларускага зьезду краёвы выканаўчы камітэт[6], які абвясьціў сябе народным сакратарыятам (урадам) Беларусі[7]. 9 сакавіка ён выдаў устаўную грамату, якая абвяшчала стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі, якая разумелася як складовая частка Расейскай фэдэрацыі. Урэшце, 25 сакавіка Рада БНР выдала наступную ўстаўную грамату, якая абвяшчала:

> Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнаю і Вольнаю Дзяржавай. Самі народы Беларусі ў асобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі[8].

Дэклярацыя Рады БНР ад 25 сакавіка 1918 г. у беларускіх нацыянальных колах уважаецца за абвяшчэньне народзінаў уласнай дзяржавы і ў меру магчымасьці ўрачыста сьвяткуецца. Крытыкі ж заўважаюць, што дэклярацыя была актам кампрамісу з моцнай прарасейскай апазыцыяй унутры Рады. Па–першае, яна была прынятая бальшынёй усяго ў колькі галасоў, і, па–другое, накінутае расейскімі царамі ярмо не існавала ўжо больш за год, а яго "скіданьне" было беспрадметным і не выражала стаўленьня

[4] На момант разгону Ўсебеларускага зьезду Савет народных камісараў Заходняй вобласьці і фронту знаходзіўся ў Менску. У Смаленск ён уцёк 18—19 лютага 1918 г. — *А.С.*

[5] У створаны бальшавікамі ў лістападзе 1917 г. Выканаўчы камітэт саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласьці і фронту (Аблвыканкамзах) ня быў уключаны аніводзін прадстаўнік беларускага нацыянальнага руху. — *А.П.*

[6] Гаворка пра Выканаўчы камітэт Рады Ўсебеларускага зьезду. Аднак з падпольля ён выйшаў не пасьля прыходу немцаў у Менск, а адразу пасьля ўцёкаў бальшавіцкай улады — 19 лютага — і ў той самы дзень выдаў загад № 1, якім абвясьціў, што "ўзяў уладу ў свае рукі", а "для наладжаньня парадку ў гор. Менску" прызначыў камэнданта — Канстанціна Езавітава. Нямецкія войскі, уступіўшы ў Менск 25 лютага, ужо мелі справу з Народным сакратарыятам Беларусі. Яны сарвалі беларускі сьцяг з будынку, дзе месьціўся беларускі ўрад, і захапілі касу Народнага сакратарыяту. Гл.: Архівы БНР. Т. 1. Кн. 1. С. 49—50. — *А.С.*

[7] 20 лютага 1918 г. Выканаўчы камітэт Рады Ўсебеларускага зьезду выдаў Устаўную грамату да беларускага народу. Да скліканьня Ўстаноўчага сойму ён абвясьціў сябе часоваю ўладаю ў Беларусі і стварыў урад — Народны сакратарыят. У літаратуры Грамата, і стварэньне Народнага сакратарыяту датуюцца 21.02.1918. Гэтая недакладнасьць выкліканая тым, што Грамата была апублікаваная 21 лютага. Насамрэч, 21 лютага ўрад "ужо прыступіў да спаўненьня сваіх абавязкаў", пра што была выпушчаная адмысловая абвестка на дзьвюх мовах. Аб стварэньні Народнага сакратарыяту А. Смоліч 21 лютага інфармаваў Менскую гарадзкую думу. Гл.: Тамсама, с. 46—49, 852. — *А.С.*

[8] Пераклад спраўджаны з тэкстам у: Архівы БНР. Т. 1. Кн. 1. С. 62. — *А.С.*

Рады да фэдэрацыйнага саюзу з рэвалюцыйнай Расеяй.

Пра тое, наколькі глыбокай была псыхалягічная залежнасьць беларускіх дзяячоў ад Расеі, сьведчаць спробы пошуку падтрымкі ў Нямецкім райху. 25 красавіка 1918 г. кайзэру Вільгельму была дасланая падпісаная вядучымі чальцамі Рады тэлеграма з падзякай за вызваленьне краіны ад чужога ўціску і просьбай аб дапамозе ўмацаваць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Гэтая тэлеграма, якая засталася без адказу, выклікала вялікі крызіс ува ўладах БНР: адстаўка часткі чальцоў Рады і ўраду разам зь яго прэм'ерам Язэпам Варонкам, а таксама распад асноўнай палітычнай сілы Рады — Беларускай сацыялістычнай грамады.

Пра Дэклярацыю Рады БНР не было згадкі ў прынятай у 1991 г. Вярхоўным Саветам БССР дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусі[9]. Тады, у 1918 г., за прыняцьце дэклярацыі незалежнасьці нацыянальныя дзяячы вялі цяжкую барацьбу з прарасейскай апазыцыяй, цяпер жа, у 1991 г., дэклярацыя была прынятая галасамі камуністычнай намэнклятуры, якая, з іроніі лёсу, яшчэ нядаўна змагалася з нацыянальнымі тэндэнцыямі як сэпаратысцкімі. Раптоўная зьмена пазыцыі гэтай намэнклятуры адлюстроўвала перадусім яе імкненьне захаваць дагэтулешнія палітычныя і эканамічныя пазыцыі, якія апынуліся пад пытальнікам пасьля няўдалай спробы путчу, учыненай летам 1991 г. у Маскве групай Янаева[10].

Можна меркаваць, што ўва ўзьнікненьні Рэспублікі Беларусі не адыгрываў ніякай ролі такі істотны дзяржаватворчы чыньнік, як нацыянальная сьвядомасьць грамадзтва, зразуметы як падстава імкненьня да існаваньня самастойнай дзяржавы. Больш за тое, можна рызыкнуць выказаць меркаваньне, што дэклярацыя Вярхоўнга Савету БССР была прынятая насуперак выказанай на рэфэрэндуме 1991 г. волі гэтага грамадзтва, якое аддавала рашучую перавагу СССР, а ня ўласнай асобнай дзяржаве[11].

У першыя гады функцыянаваньня гэтай дзяржавы паступова ўзмацнялася актыўнасьць нацыянальна арыентаваных колаў, якія, не зважаючы на спэцыфіку яе ўтварэньня, разглядалі яе як падараваную гісторыяй рэдкую магчымасьць пабудовы рэальнай самастойнасьці. Луналі розныя лёзунгі: адраджэньне мовы і культуры, стварэньне сучаснай нацыянальнай сьвядомасьці, дэмакратызацыя палітычнага жыцьця, перабудова гаспадарчай сыстэмы, далучэньне да эўрапейскіх структураў, нэўтралітэт у вайсковай сфэры і г.д.

Пры гэтым спадзяваньні на падтрымку гэтых імкненьняў ускладаліся на заходнія краіны, у тым ліку асабліва на рэальную фінансавую дапамогу, якая спрыяла б умацаваньню дзяржаўнасьці Беларусі. Тут чакала вялікае расчараваньне, бо гэтая дапамога, калі не лічыць сродкаў на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы, аказалася амаль сымбалічнай у параўнаньні зь дзясяткамі мільярдаў даляраў, якія цяклі ў Расею. Тлума-

[9] Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі была прынятая Вярхоўным Саветам БССР яшчэ 27 ліпеня 1990 г. 25 жніўня 1991 г. надзвычайная сэсія Вярхоўнага Савету толькі надала ёй сілу канстытуцыйнага закону. — *А.П.*

[10] Маецца на ўвазе Дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы (ГКЧП), які 19 жніўня 1991 г. заявіў пра адхіленьне ад улады прэзыдэнта СССР Міхаіла Гарбачова і пераняцьце ўлады ў краіне ў свае рукі. На чале ГКЧП знаходзіўся віцэ–прэзыдэнт СССР Генадзь Янаеў (нар. 1936). — *А.П.*

Спроба дзяржаўнага перавароту, узначаленая віцэ-прэзыдэнтам Савецкага Саюзу Генадзем Янаевым і накіраваная супраць рэфармаваньня дзяржаўнага ладу СССР, была ўчынена 19—21 жніўня 1991 г. Путч стаў непасрэдным штуршком да распаду СССР. У гэтыя дні кіраўніцтва Расейскай фэдэрацыі ўзяло пад свой кантроль сілавыя структуры і міністэрства замежных справаў СССР, прызнала незалежнасьць Эстоніі. 24 жніўня акт аб незалежнасьці прыняла Вярхоўная Рада Ўкраіны, а 25 жніўня Вярхоўны Савет БССР надаў канстытуцыйны статус Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР і прыняў пастанову аб забесьпячэньні палітычнай і эканамічнай незалежнасьці Рэспублікі. 19 верасьня была абвешчана Рэспубліка Беларусь. — *А.С.*

[11] На кансультацыйным рэфэрэндуме пра лёс СССР, які быў праведзены ў сакавіку 1991 г., 82,7% насельніцтва БССР выказаліся за яго захаваньне. — *А.П.*

чэньні, што адсутнасьць дапамогі для Беларусі была наступствам яе нежаданьня ці няздольнасьці рэфармаваць эканоміку, падаюцца памылковымі. Бо прыклад Польшчы і нават Расеі паказвае, што гэтая ўмова не была выключнай, а рэфармаваньне эканомікі гэтых краін без папярэдняй фінансавай дапамогі было б прынамсі сумнеўным.

Таму выглядае на тое, што ў палітыцы Захаду да посткамуністычных краінаў Усходняй Эўропы ўжываліся і ўжываюцца два розныя крытэры. Яны вынікаюць з глябальнай палітыкі, асабліва Злучаных Штатаў, якая не скіраваная на дэкампазыцыю вялікага саюзьніка на ўсходзе, незалежна ад таго, ці завецца ён СССР, ці Расейскай фэдэрацыяй. Супраць гэтай дэкампазыцыі ў жніўні 1991 г., то бок беспасярэдне перад распадам СССР, выказаўся амэрыканскі прэзыдэнт Джордж Буш падчас свайго візыту ў Кіеў. На жаль, нішто ня сьведчыць аб тым, каб гэты пагляд зьмяніў яго наступнік Біл Клінтан. Таму можна меркаваць, што палітычная воля Захаду — пакінуць Беларусь у сфэры ўплываў Расеі.

Такім парадкам, пасьля неспадзявана падараванай незалежнасьці не адбылося, бо не магло адбыцца, цуду, а ў пакінутай на ўласны лёс Беларусі нарасталі цяжкасьці, найперш эканамічныя. Рост цэнаў прывёў да падзеньня спажываньня, што выклікала спад вытворчасьці і нацыянальнага даходу. Не дапамагло ані стварэньне Садружнасьці незалежных дзяржаваў, ані спробы пераарыентацыі эканамічных сувязяў з замежжам, перадусім максымалізацыі абаротаў з краінамі Сярэдняй і Заходняй Эўропы. Беларускія экспартныя прадпрыемствы не атрымалі ніякіх пачатковых прэфэрэнцыяў і мусілі дапасоўвацца да суровых правілаў вольнага рынку. У выніку, галоўным гандлёвым партнэрам надалей заставалася Расея, на якую ў 1992—1997 гадох прыпадала каля 2/3 усяго замежнага абароту Беларусі.

Прарасейскі выбар грамадзтва, бо так можна ацаніць яго падтрымку інтэграцыйных намераў Лукашэнкі, адлюстроўвае надзеі перадусім на паляпшэньне эканамічнай сытуацыі. Гэты выбар, хоць ён і пераважае ў маштабе ўсёй Беларусі, вылучаецца цікавымі рэгіянальнымі адрозьненьнямі, што можа паказваць на ўзьдзеяньне таксама і неэканамічных чыньнікаў. Мяркуючы па падліках Марака Сьлівінскага і Валера Чэкмана (Obóz, 1996, № 30)[12], поўную падтрымку праграмы інтэграцыі з Расеяй выказвае насельніцтва суседніх зь ёй рэгіёнаў Усходняй Беларусі, тады як у памежных зь Літвой паўночна–заходніх рэгіёнах наймацней выяўляюцца нацыянальныя тэндэнцыі.

Пададзены гэтымі аўтарамі геаграфічны расклад прарасейскай тэндэнцыі ў прынцыпе супадае з тэрытарыяльнай канфэсійнай дыфэрэнцыяцыяй у Беларусі, якая захоўваецца на працягу стагодзьдзяў. Гэтая дыфэрэнцыяцыя, праўда, за савецкім часам была аслабленая атэізацыяй грамадзтва і высяленьнем зь Беларусі соцень тысяч каталікоў[13], аднак яна надалей застаецца важным чыньнікам, які выяўляецца ў адрознай мэнтальнасьці насельніцтва і яго прывязанасьці да розных культурных каштоўнасьцяў. У дзевяностыя гады гэты чыньнік досыць эфэктыўна выкарыстоўваўся ў прапагандаваньні сярод праваслаўнай бальшыні славянафільскіх тэндэнцыяў[14] і распальваньні страхаў пе-

---

[12] У 30 нумары часопіса “Obóz” у 1996 г. быў апублікаваны артыкул М. Сьлівінскага і В. Чэкмана “Białoruś: ziemia niczyja?” (“Беларусь: нічыйная зямля?”) (S. 19—33). — *А.П.*

[13] Маецца на ўвазе перш за ўсё абмен насельніцтвам паміж СССР і Польскай Народнай Рэспублікай у 1940—1950–х г. — *А.П.*

Гаворка павінна ісьці пра масавы выезд у Польшчу у 1945—1946 г. і ў 1958—1959 г. жыхароў Беларусі каталіцкага вызнаньня. Гэтыя людзі былі ў большасьці г.зв. касьцельнымі палякамі — этнічнымі беларусамі каталіцкага вызнаньня. Многія зь іх пісаліся палякамі, каб уцячы ад калгасаў. Былі сярод эмігрантаў і праваслаўныя беларусы. Гл. таксама артыкул “Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы” ў гэтай кнізе. — *А.С.*

[14] Славянафільскімі гэтыя настроі можна назваць умоўна, бо “славянафілы” 1990–х гадоў не надзялялі сваёю любоўю каталіцкія славянскія народы, а з праваслаўных вылучалі найперш расейцаў, а потым беларусаў і ўкраінцаў. Таму гэтых “славянафілаў” называлі славянаросамі. — *А.С.*

рад вэстэрнізацыяй Беларусі і ростам уплыву Каталіцкай царквы[15]. Пры гэтым не бярэцца пад увагу, што ў дзейнасьці гэтай Царквы штораз большую ролю адыгрывае беларуская мова, тады як Праваслаўная царква надалей трымаецца расейскай мовы. Апроч таго, немалы ўплыў на посьпех Лукашэнкі ў прэзыдэнцкіх выбарах і пазьнейшых рэфэрэндумах рабіла тая акалічнасьць, што яго вядучыя папярэднікі ўва ўладнай камандзе мелі каталіцкае паходжаньне[16], што ўзбуджала падазронасьць і процідзеяньне дзяячоў прарасейскай арыентацыі.

Таму можна пагадзіцца з высновай Марака Сьлівінскага і Валера Чэкмана, што "паняцьце беларускіх нацыянальных і дзяржаўных інтарэсаў надалей застаецца чужым для велізарнай бальшыні жыхароў краіны, якія пачуцьцёва і эмацыйна ўсё яшчэ прывязаныя да ўжо няіснага Савецкага Саюзу, безвынікова спрабуючы ўгледзець у разьдзіранай канфліктамі Расеі яго новы адпаведнік"[17].

*Пераклад зроблены паводле:* Obóz. № 35. Warszawa, 1998.

### Камэнтар–паслоўе Анатоля Сідарэвіча

У гэтым артыкуле, які не вызначаецца дэталёвасьцю, аўтар не разглядае падзеі 1990—1991 г. у храналягічнай пасьлядоўнасьці і ўзаемасувязі.

Акцэнтуючы ўвагу на тым, што амаль 80% грамадзян БССР увесну 1991 г. прагаласавала за тое, каб Рэспубліка засталася ў складзе СССР, ён ігнаруе факт, што ў Беларусі, якая перажыла пяць хваляў масавага тэрору (1918—1921, 1929—1930, 1933—1934, 1939—1940, 1944—1945), зь якой у 1944 г. на эміграцыю падаліся тысячы людзей, у якой была вялікая канцэнтрацыя войскаў СССР і засталіся на сталае жыхарства некалькі соцень тысяч адстаўных вайскоўцаў з розных рэгіёнаў СССР, 20% насельніцтва прагаласавала за незалежнасьць.

Далей аўтар піша:

> Можна меркаваць, што ўва ўзьнікненьні Рэспублікі Беларусі не адыгрываў ніякай ролі такі істотны дзяржаватворны чыньнік, як нацыянальная сьвядомасьць грамадзтва, зразуметы як падстава імкненьня да самастойнага дзяржаўнага існаваньня. Больш за тое, можна рызыкнуць выказаць меркаваньне, што дэклярацыя Вярхоўнага Савету БССР была прынятая насуперак выказанай на рэфэрэндуме 1991 г. волі гэтага грамадзтва...

Па–першае, у Вярхоўным Савеце БССР XII склікаьня, які абіраўся ў 1990 г. пад камуністычным кантролем, пытаньне аб сувэрэнітэце БССР, а потым аб дэнансацыі саюзнай дамовы 1922 г. гучала зь першых дзён яго існаваньня. Па–другое, на сьвядомасьць насельніцтва вельмі ўплывалі падзеі ў іншых саюзных рэспубліках, асабліва абвяшчэньне дзяржаўнага сувэрэнітэту Расеі і Ўкраіны. Па–трэцяе, прытупленасьць нацыянальнай сьвядомасьці не азначае, што ў насельніцтве не пашыралася думка аб неабходнасьці самастойнага дзяржаўнага быту Беларусі. Па–чацьвертае, абвяшчэньне

[15] Антыкаталіцкая прапаганда спалучалалася з антыпратэстанцкай і антыюдэйскай. З праваслаўных цэркваў перавага аддавалася Расейскай праваслаўнай царкве. Спробы стварыць незалежныя ад яе праваслаўныя прыходы падаўляліся дзяржаваю. — *А.С.*

[16] Перш за ўсё, відаць, маюцца на ўвазе старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч, старшыня Савету міністраў Вячаслаў Кебіч і лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк. Апошні, праўда, ува ўладную каманду не ўваходзіў, але быў уплывовым лідэрам апазыцыі і многія з тых зьменаў, што праводзіліся ў Беларусі ў пачатку 1990–х г., насельніцтва ўстойліва асацыявала зь ягоным імем, чаму судзеяла і афіцыйная прапаганда. — *А.П.*

[17] Панаваньне на беларускім інфармацыйным полі расейскіх электронных СМІ з паказам рэгіянальных канфліктаў, "разборак" і г.д. спрыяла стварэньню нэгатыўнага іміджу Расеі. — *А.С.*

дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі не сустрэла арганізаванага супраціву. Па–пятае, згаджаючыся на самастойны дзяржаўны быт Беларусі, большасьць насельніцтва першапачаткова не ўяўляла Беларусь бязь цеснае сувязі з Расеяй, але штогод гэты адсотак падае, і, наадварот, узрастае працэнт грамадзянаў, якія выступаюць за інтэграцыю Беларусі ў эўрапейскія структуры або выказваюцца за збалянсаванасьць у дачыненьнях з Расеяй і Эўразьвязам.

Пішучы пра палітыку Захаду ў дачыненьні да Беларусі, аўтар мусіў бы адзначыць, што “пакінуць Беларусь у сфэры ўплыву Расеі” жадалі ня гэтак Злучаныя Штаты, як традыцыйныя гульцы на гэтым полі — Нямеччына і Францыя, якія ў немалой ступені вызначалі палітыку Эўразьвязу. У 1990–х г. яны ў пэўнай ступені паўтаралі палітыку сваіх урадаў 1918—1921 г., якія не пажадалі прызнаць БНР.

# Цярністы шлях Беларусі

Можна спадзявацца, што кніга Яўгена Мірановіча "Навейшая гісторыя Беларусі" (Беласток, 1999. 270 с.) зацікавіць многіх чытачоў і спэцыялістаў. Нягледзячы на амбітны загаловак, яе асноўны зьмест — разьвіцьцё беларускага нацыянальнага руху і станаўленьне дзяржаўнасьці, становішча якой сёньня хвалюе ня толькі беларусаў.

Дзевяць разьдзелаў кнігі лягічна адпавядаюць асноўным этапам палітычнай гісторыі Беларусі — ад часу яе ўваходжаньня ў склад Расейскай імпэрыі па сёньняшні дзень. Аўтар пачынае ад апісаньня першых канспірацыйных спробаў фармаваньня беларускай нацыянальнай ідэі ў другой палове XIX ст. і намаганьняў яе пашырэньня сярод насельніцтва ў нашаніўскі пэрыяд (1906—1915), слушна заўважаючы, што гэты пэрыяд быў закароткі для ўкараненьня ў масах нацыянальнай сьвядомасьці і выпрацоўкі да першай сусьветнай вайны агульнанацыянальнай канцэпцыі дзяржаўнага будаўніцтва.

Гэтыя перадумовы пагоршыліся ў выніку мабілізацыі дзяячоў у расейскую армію і эвакуацыі насельніцтва ў глыб Расеі, што паўплывала на мізэрнае выкарыстаньне асьветна–культурных канцэсіяў нямецкіх акупацыйных уладаў у заходняй частцы Беларусі. Палітычная дзейнасьць ажывілася пасьля Лютаўскай рэвалюцыі (1917 г.) і акупацыі нямецкай арміяй усходніх раёнаў Беларусі (1918 г.), а яе завяршэньнем была праклямацыя і кароткачасовае існаваньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Ува ўмовах адсутнасьці сваёй рэальнай вайсковай сілы і дзейснай падтрымкі масаў, больш зацікаўленых вырашэньнем сацыяльных пытаньняў, сярод палітыкаў БНР пераважалі арыентацыі на сілы звонку, што спараджала ўнутраныя самагубныя канфлікты. Гэта аблягчала савецкай Расеі і адроджанай Польшчы ігнараваць БНР і трактаваць яе як прадмет сваіх інтарэсаў.

Рыскі трактат (1921 г.) ня толькі выключыў магчымасьць нацыянальнага разьвіцьця ў савецкай і польскай частках падзеленай Беларусі, але, — як піша Яўген Мірановіч, — "стварыў сытуацыю супярэчнасьці польска–беларускіх інтарэсаў і вялікія магчымасьці ўзьдзеяньня на гэтыя суадносіны з боку Масквы". Гэтыя працэсы аўтар пераканаўча адлюстроўвае ў III і IV разьдзелах кнігі, паказвае, як паступова, хаця рознымі мэтадамі, вынішчаўся нацыянальны патэнцыял у БССР і Заходняй Беларусі. Не выпадкова ўзьяднаньне беларускіх абшараў у верасьні 1939 г. успрымалася беларускімі дзяячамі (нават хадэцкімі) як акт гістарычнай справядлівасьці.

Значную ўвагу аўтар прысьвяціў драматычным падзеям пэрыяду нямецкай акупацыі (1941—1944), калі ўва ўмовах непасьлядоўнасьці нямецкай палітыкі і партызанскай вайны асноўным імкненьнем насельніцтва было звычайнае выжываньне. Усё ж стаўка нямецкай цывільнай адміністрацыі на ажыўленьне аслабленага беларускага нацыяналізму (БНС, СБМ, Рада даверу, БЦР, роспуск калгасаў, вайсковыя фармаваньні ды інш.) не была безвыніковая, а гэта мела важныя наступствы пасьля вяртаньня Чырвонай Арміі ў Беларусь. Пад шырмай выкараненьня фашысцкай ідэалёгіі цэлыя пасьляваенныя дзесяцігодзьдзі працягвалася змаганьне зь беларускімі нацыянальнымі вартасьцямі.

> У выніку, — піша Мірановіч, — краіна засталася без нацыянальнай эліты, частка якой загінула ў час акупацыі, частка эвакуавалася зь нямецкай арміяй, а астатнія неўзабаве апынуліся ў савецкіх канцэнтрацыйных лягерох. У Беларусі ня стала сілаў, якія маглі б хаця прыпамінаць аб ідэі незалежнасьці, аб сваіх нацыянальных сымбалях (с. 166).

Працэсам пасьляваеннай дэнацыяналізацыі спрыяў таксама наплыў грамадзян зь іншых рэспублік СССР, галоўным чынам расейцаў, якія займалі кіруючыя пасты ў грамадзкім жыцьці Беларусі. Істотны ўплыў на русіфікацыю насельніцтва мела, урэшце,

інтэнсіўная індустрыялізацыя і перасяленьне сельскага насельніцтва ў гарады. Новых гараджан задавальняла грамадзкае павышэньне, расейскамоўнае асяродзьдзе і асабліва дасягнуты ў 70–х гадох адносны дабрабыт. Пасьлядоўна да гарбачоўскай перабудовы дысыдэнцтва ў Беларусі было амаль незаўважнай зьявай, значна слабейшай, чым у Расеі ці Прыбалтыцы.

Апошні разьдзел кнігі ("Сувэрэнная Беларусь") прысьвечаны падзеям апошняга дзесяцігодзьдзя — паўстаньню маладзёжных суполак, апазыцыйных партыяў і рухаў, разьвіцьцю непадцэнзурнай выдавецкай дзейнасьці і г.д. "Аднак, — сьцьвярджае Мірановіч, — беларускім элітам не ўдалося новыя ідэйныя плыні прышчапіць масам, якія пад уплывам нарастаючага эканамічнага крызісу заставаліся абыякавымі да лёзунгаў аб дэмакратыі і нацыянальным адраджэньні" (с. 212—213). Дэклярацыі Вярхоўнага Савету аб сувэрэнітэце і незалежнасьці былі вымушаны палітычнай сытуацыяй і не адлюстроўвалі жаданьняў пераважнай часткі дэнацыяналізаванага грамадзтва. Настальгія па СССР абумовіла бліскучую перамогу Аляксандра Лукашэнкі ў прэзыдэнцкіх выбарах (1994 г.), а пазьнейшыя рэфэрэндумы далі прэзыдэнту народны мандат для дзяржаўнай інтэграцыі з Расеяй.

Кніга Яўгена Мірановіча наводзіць на невясёлыя роздумы, сярод якіх на першы плян высоўваецца пытаньне нацыянальнай самасьвядомасьці масаў, ці дакладней — яе хранічнай адсутнасьці. Аўтар не лякіруе сапраўднасьці, але прычыну гэтай зьявы бачыць у дзеяньнях суседзяў. Гэта не высьняе справы да канца, больш істотнай была і ёсьць няздольнасьць ці неахвота беларускага люду бараніць і памнажаць свае ідэйныя вартасьці.

Занадта катэгарычна гучыць вывад аўтара аб тым, што беларуска–польскія і беларуска–расейскія палітычныя інтарэсы ўзаемна выключаюцца (с. 3), а таксама што сярод беларусаў не было групавой матывацыі да супрацоўніцтва зь немцамі (с. 136). Заўважым, што міжнародныя стасункі — гэта не эвангельская ісьціна, яны мяняюцца ў залежнасьці ад патрэбаў, магчымасьцяў, умельства, затое суседзтва застаецца нязьменным. Усё ж ня ясна, чым кіраваўся аўтар, крытычна ацэньваючы пазыцыю Іваноўскага (с. 159) і адначасова замоўчваючы стаўленьне Астроўскага да польскага падпольля (матэрыялы захаваліся).

Яўген Мірановіч, як правіла, не дакумэнтуе сваіх выказваньняў, што характэрна для публіцыстычных твораў. Аднак у некаторых выпадках дакумэнтацыя была б пажаданая. Гэта датычыць такіх сэнсацыйных паведамленьняў, як запрашэньне Леніным Луцкевіча на перамовы ў Маскве (с. 36), адсутнасьць у Менску рэакцыі на разгром Грамады (с. 92), пагадненьне Праўдзіца–Шляскага зь немцамі (с. 160), "вялікія сродкі" для БЦР (с. 161), праект перадачы Полацкай вобласьці Расеі (с. 167) ці пра шматтысячныя копіі "Письма Русскому Другу" (с. 206). Пра забойствы духавенства восеньню 1939 г. (с. 122) былі б пажаданыя канкрэтныя весткі, вядома, што зь некаторымі распраўляліся мясцовыя жыхары, а не савецкія ўлады ці салдаты.

Не магу не зьвярнуць увагі на дапушчаныя ў тэксьце памылкі і недакладнасьці, якія, на жаль, памяншаюць вартасьць і культуру выданьня. Іх можна было пазьбегнуць шляхам больш грунтоўнага выкарыстаньня крыніц і папярэдняй рэцэнзіі. Вось асноўныя, на старонках:

8 — Эліта ВКЛ падвяргалася палянізацыі не ў канцы XVIII ст., яна палянізавалася некалькі стагодзьдзяў.

17 — Не "Наша Хатка", а "Наша Хата".

27 — Ліпеньскі зьезд левых партыяў (1917 г.) не "распусьціў" (ён ня меў такой магчымасьці) БНК Скірмунта, які працягваў дзейнічаць і ў 1918 г.[1].

---

[1] Спрэчнае пытаньне, якое патрабуе дадатковага вывучэньня. Відавочна, што Ю. Туронак лічыць працягам БНК заснаванае 25 лютага 1918 г. "Менскае беларускае народнае прадстаўніцтва" ("Менскае беларускае прадстаўніцтва"). — *А.С.*

34 — У 1918 г. немцы не захапілі ўсёй Беларусі.

42 — Няўжо ў 1919/20 г. у Менску выходзілі "незалежныя" беларускія газэты?

48 — Крэдыт (40 млн. марак) ня быў нямецкі, а ўкраінскі, прызначаны ўраду БНР у канцы 1918 г. і здэпанаваны ў бэрлінскім банку, пазьней, пасьля паручэньня літоўскага ўраду, быў перададзены Ластоўскаму.

93—99 — Сярод віленскіх арганізацыяў прапушчана ТБШ, якое мела большае значэньне, чым БІГіК.

76, 6 р. зьверху — Не на ўсход, а на захад.

95 — Беларускіх каталіцкіх ксяндзоў перамяшчалі не ў цэнтральныя ваяводзтвы, але ў польскія мясцовасьці іх дыяцэзіі.

97, 98 — У выніку забароны ўладамі арганізацыйнага зьезду (1937) ніколі не паўстала Беларуская нацыянал–сацыялістычная партыя, тым больш не магла быць "адзінай" беларускай партыяй, якая пратрымалася да 1939 г. (Той адзінай было БНА.)

127 — Няўжо толькі "некалькі дзясяткаў кулакоў" плянавалася дэпартаваць на ўсход?

142, 259 — Ня Кноўт, а Контаўт.

142 — Ня Шчорс заснаваў "Новую Дарогу".

143 — Беластоцкая вобласьць у 1941—1944 г. не была далучана да Ўсходняй Прусіі. Няпраўда, што ў Прыбалтыцы немцамі дазваляліся толькі 4–кл. пачатковыя школы, там працавалі і сярэднія, і вышэйшыя[2].

147 — У 1943—1944 г. у Беластоку дзейнічала Беларускае аб'яднаньне, а не Беларускае нацыянал–дэмакратычнае аб'яднаньне.

163 — У Нямеччыну вывезьлі ня "некалькі тысяч", а некалькі сот тысяч.

254 — Кс. В. Гадлеўскі нарадзіўся ў 1888, а не 1898 г.

Адносна лексыкі: не гаворыцца "духовая" (адасобленасьць), а духоўная (с. 9 ды інш.), войскі не "апанавалі" лінію, а выйшлі на лінію (с. 40), Грабскі не "фарсіраваў", а дамагаўся граніцы (с. 49), не шматкратнае, а шматразовае (с. 86, 197).

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1999. 7 лістапада.

---

[2] Пра статус Беласточчыны гл. працу "Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе (1941—1944)". С. 772—789 у гэтым выд. — *Рэд.*

# Беларуская кніга ў міжваеннай Польшчы (1921—1939)

## Уступ

У гэтай працы падаецца гісторыя беларускай кнігі ў Польскай рэспубліцы ад 1921 да верасьня 1939 г. У гэтую без малога 19–гадовую пару да польскай дзяржавы належалі паўночна–ўсходнія землі (ваяводзтвы: Наваградзкае, Палескае і ўсходнія часткі Віленскага й Беластоцкага), населеныя пераважна беларускім насельніцтвам. Прызначаная для гэтага насельніцтва кніга на роднай мове выконвала ня толькі звычайную культуратворчую ролю, але й была, згодна з задумай выдаўцоў, важным чыньнікам фармаваньня яго нацыянальнай сьвядомасьці, праявай супрацьдзеяньня асыміляцыйнай палітыцы польскіх уладаў.

Далучэньне гэтых земляў да Польшчы было вынікам польска–савецкай вайны, якая зь пераменным посьпехам вялася ў 1919—1920 г. і скончылася ўкладаньнем мірнай дамовы ў Рызе (18.03.1921). Яна замацавала падзел Беларусі: яе заходняя частка дасталася Польшчы, ува ўсходняй жа была створаная Беларуская савецкая рэспубліка[1].

Варта, аднак, заўважыць, што ўвесь 1921 г. — узяты за пачатак разгляданага выдавецкага пэрыяду — Вільня, у якой у той час канцэнтравалася амаль уся беларуская выдавецкая дзейнасьць, фармальна заставалася па–за межамі Польшчы. Згодна зь літоўска–савецкай дамовай 12.07.1920 г., яе перадалі Літве, але ўжо 9.10.1920 г. яна была занятая дывізіяй генэрала Люцыяна Жалігоўскага, які на тэрыторыі Віленскага, Троцкага, Ашмянскага і Сьвянцянскага паветаў стварыў фікцыйную дзяржаву — Сярэднюю Літву з сталіцай у Вільні[2]. Дзяржава гэтая, якая ўсё ж мела шэраг фармальных атрыбутаў асобнага дзяржаўнага ўтварэньня, праіснавала да 20.02.1922 г., калі, згодна з пастановай краёвага сойму ў Вільні злучылася з Польшчай.

Эпізадычную дзейнасьць уладаў Сярэдняй Літвы бальшыня польскіх і беларускіх дасьледнікаў ацэньвае як этап польскай інкарпарацыйнай палітыкі. Не адмаўляючы прынцыпова гэтай ацэнкі, усё ж выпадае адзначыць пэўную спэцыфіку гэтага пэрыяду. Бо, згодна з намерам Юзафа Пілсудзкага, Сярэдняя Літва мела быць зыходным пунктам для пабудовы шырэйшай польска–беларуска–літоўскай фэдэрацыйнай дзяржавы, у зьвязку з чым стаўленьне яе ўладаў (у якіх удзельнічалі беларусы: Вацлаў Іваноўскі і Браніслаў Тарашкевіч) да беларускага культурнага жыцьця было больш прыхільнае, чым адміністрацыі Польшчы пасьля праведзенай увесну 1922 г. інкарпарацыі. Затое не выклікае сумневу канцавы пункт гэтага дасьледаваньня — верасень 1939 г., калі ў выніку нямецка–савецкага нападу на Польшчу заходнебеларускія землі былі ўлучаныя ў СССР.

Гісторыя беларускай кнігі ў міжваеннай Польшчы (1921—1939) дагэтуль не дачакалася комплекснага разгляду. Працы ў гэтым абсягу пачыналіся ў дваццатых гадох Бела-

[1] БССР была абвешчана да падпісаньня Рыскага трактату: 30 ліпеня 1920 г. — *А.С.*

[2] Тэрыторыя Сярэдняй Літвы лічылася спрэчнаю. Ліга нацыяў жадала, каб Літва і Польшча паразумеліся, дзеля чаго пад яе патранатам былі праведзеныя безвыніковыя перамовы ў Брусэлі. Не было адзінства наконт тэрыторыі Сярэдняй Літвы і ў Польшчы. Ю. Пілсудзкі, напрыклад, жадаў, каб выбары ў Віленскі сойм адбыліся ў Ашмянскім, Браслаўскім, Віленскім, Лідзкім, Сьвянцянскім і Троцкім паветах, а яго апанэнты (эндэкі) лічылі Браслаўскі і Лідзкі паветы бясспрэчна польскаю тэрыторыяй. 16.11.1921 г. Сойм згадзіўся з думкаю Пілсудзкага. — *А.С.*

рускай дзяржаўнай бібліятэкай у Менску. У 1927 г. накладам гэтай бібліятэкі выйшаў Летапіс беларускага друку (частка III) з каталёгавай індэксацыяй кніг на беларускай мове, выдадзеных у 1917—1924 г., у тым ліку ў Польшчы. У 1928 г. у Менску было распачатае выданьне пэрыёдыка "Летапіс беларускага друку", дзе падавалася ўсё менш інфармацыі пра беларускія кніжкі, якія выходзілі за мяжой, і, урэшце, з пачатку 1929 г. замежныя выданьні перасталі адзначаць зусім, абмяжоўваючыся толькі кніжкамі, выдадзенымі ў Беларускай ССР.

Дасьледаваньняў у гэтай галіне не рабілася ў Беларусі таксама і ў паваенную пару. Праца С.В. Говіна (Друк Заходняй Беларусі 1921—1939. Мінск, 1974) тычылася пэрыядычных публікацыяў, а кніжка А.А. Ваўка і А.І. Раковіча (Книгоиздательское дело в Белоруссии. Минск, 1977) — толькі выданьня савецкіх кніжак.

Нэгатыўнае стаўленьне беларускіх савецкіх дасьледнікаў да выдавецкай дзейнасьці за межамі краіны было прадыктаванае галоўным чынам ідэалягічнымі меркаваньнямі. Пачынаючы з трыццатых гадоў, выдадзеныя за мяжой кніжкі зьнішчалі, часткова перахоўвалі ў "спэцфондах" навуковых бібліятэк і толькі ў рэдкіх выпадках разглядалі ў навуковых публікацыях. На гэта ўплывалі ня толькі характар зьместу, супярэчны паноўнай у СССР ідэалёгіі, — у "спэцфонды" траплялі таксама працы клясыкаў марксізму ды перадрукі раней выдадзеных у Беларускай ССР твораў клясыкаў беларускай літаратуры: Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых, толькі таму, што гэтыя кніжкі паходзілі з замежжа.

Заняпад камуністычнай ідэалёгіі і распад СССР дазволілі беларускім дасьледнікам аб'ектыўна падысьці да выдавецкай праблематыкі ў міжваеннай Польшчы, аднак, апроч фрагмэнтарных працаў, комплексных дасьледаваньняў дагэтуль не было. Надалей няма поўнага каталёгу кніжак, дасьледаваньняў дзейнасьці выдаўцоў, друкароў, кнігароў, а таксама ацэнкі ўспрыманьня кніжкі чытачамі і яе ўплыву на фармаваньне культурнага жыцьця і нацыянальнай сьвядомасьці беларускага насельніцтва ў міжваеннай Польшчы. У вялікай ступені гэта было наступствам ігнараваньня гэтай праблематыкі, якое доўжылася з канца дваццатых гадоў, г.зн. больш за шэсьцьдзесяць гадоў. Пра гэта сьведчыць у тым ліку памылковая інфармацыя аб колькасьці кніжак, выдадзеных віленскай беларускай друкарняй ім. Францішка Скарыны[3].

У Польшчы дагэтуль выйшла колькі працаў аб гісторыі беларускай кнігі ў міжваенную пару. Сярод іх заслугоўваюць увагі працы Хрысьціны Гамулкі[4] і Алены Глагоўскай[5], а таксама напісаныя ў Польшчы, але выдадзеныя ў Лёндане ўспаміны Язэпа Найдзюка–Александровіча (пад псэўданімам Станіслаў Цыпрыяновіч) пра разьвіцьцё і дзейнасьць друкарні ім. Скарыны ў Вільні[6]. Апроч таго, колькі публікацыяў зьявілася ў лёнданскім часопісе "Божым Шляхам", у тым ліку складзены ксяндзом Фэліксам Журнем пералік беларускіх кніжак і рэлігійных пэрыёдыкаў[7], а таксама крыніцазнаўчае дасьледаваньне Гая Пікарды "The Heavenly Fire", у якім разглядаецца беларускамоўная пратэстанцкая літаратура[8].

Дасьледаваньні над комплексным асьвятленьнем беларускай выдавецкай дзейнасьці ў

[3] Г. Галенчанка і В. Герасімаў сьцьвярджаюць, што друкарня ім. Францішка Скарыны выдала (sic!) больш за 70 кніжак. Гл.: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1997. Т. 4. С. 211. Насамрэч, там было надрукавана больш за 160 выданьняў.

[4] Gomółka K. Białorusini w II Rzeczypospolitej. Gdańsk, 1992.

[5] Głogowska H. Białoruskie wydawnictwa religijne w II Rzeczypospolitej a białoruski ruch narodowy // Naród i religia. Gdańsk, 1994.

[6] Цыпрыяновіч С. (Найдзюк Я.) Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926—1940). Лёндан, 1991.

[7] Журня Ф. Беларускія рэлігійныя выданьні XIX—XX ст. // Божым Шляхам. 1972. № 132.

[8] Picarda G. The Heavenly Fire // Божым шляхам. 1975. № 143—144.

міжваеннай Польшчы былі пачатыя ў восемдзясятых гадох у Інстытуце славістыкі Польскай акадэміі навук. Першую іх частку становіць укладзеная Юр’ем Трачуком бібліяграфія часопісаў[9]. Дадзеная праца запачткоўвае другую частку, прысьвечаную кнігавыданьню.

Зыходным пунктам гэтай працы і заразом асновай для праблемных аналізаў было ўпарадкаваньне як мага поўнага каталёгу кніжак на беларускай мове, выдадзеных у 1921—1939 г. Для гэтай мэты выкарыстоўваліся выдадзены Беларускай дзяржаўнай бібліятэкай у Менску “Летапіс беларускага друку”, які ў ліку іншага ўтрымлівае бібліяграфічнае апісаньне кніжак, выдадзеных у Польшчы ў 1921—1924 г., і “Urzędowy Wykaz Druków wydanych w Rzeczypospolitej Polskiej”, у якім пачынаючы ад 1929 г. фіксаваліся беларускамоўныя публікацыі. Абедзьве гэтыя крыніцы, аднак, не ахопліваюць усіх кніжак, выдадзеных у Польшчы ў міжваенную пару.

У гэтай сытуацыі карыснай дадатковай крыніцай быў рэклямны каталёг віленскай кнігарні “Пагоня”, які ахоплівае большасьць беларускіх кніжак, выдадзеных да сярэдзіны 1937 г.[10], а таксама бібліяграфічныя паказьнікі, якія рэгулярна публікаваліся ў віленскіх часопісах “Biełaruskaja Krynica”, “Chryścjanskaja Dumka”, “Шлях Моладзі” і інш. З прычыны таго, што каталёг кнігарні “Пагоня” і часопісы часта ня бралі пад увагу такіх зьвестак, як назва выдавецтва, друкарні, аб’ём і іншых, атрыманую гэтым шляхам інфармацыю трэба было параўноўваць і дапаўняць дэталямі, якія падаваліся на вокладках паасобных кніжак.

У вялікай меры для гэтых мэтаў выкарыстоўваліся зборы польскіх навуковых бібліятэкаў, а ў некаторых выпадках прыватныя калекцыі. Асабліва багатымі зборамі беларускіх кніжак міжваеннай пары валодае Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве, якая атрымлівала абавязковы асобнік з друкарняў альбо ад віленскай гарадзкой адміністрацыі. Нягледзячы на розныя страты, панесеныя ў часе апошняй вайны, у Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы захавалася пераважная частка беларускіх кніжак, выдадзеных у гэтую пару.

Распрацаваны каталёг пададзены ў дадатку. Ён не ахоплівае:

— пэрыядычных выданьняў (часопісаў, гадавікоў, календароў);
— улётак (меншых за 4 старонкі) і мапаў;
— унутраных публікацыяў грамадзкіх арганізацыяў (праграмаў, статутаў, інструкцыяў і да т.п.);
— рэклямных каталёгаў беларускіх кнігарняў;
— непранумараваных і незбрашураваных зборнікаў;
— каля 20 агітацыйных брашур, выдадзеных у 1921—1922 г. беларускімі эсэрамі ў Літве, на якіх падаюцца фікцыйныя назвы друкарняў у польскіх гарадох; гэта павінна было палегчыць іх нелегальнае распаўсюджаньне сярод беларускага насельніцтва.

Публікацыі, выдадзеныя адначасна кірыліцай і лацінкай, у каталёгу падаюцца як дзьве асобныя кніжкі. Гэта тычыцца дзьвюх ці трох пазыцыяў.

У выпадку кніжак, выдрукаваных часткамі ў розныя гады, а часам і ў розных друкарнях, кожная частка ў каталёгу падаецца як асобная кніжка. Гэта тычыцца наступных пазыцыяў:

Бобіч Ільдэфонс. Нядзеляшнія эвангеліі і навукі. 1921—1922; Грынкевіч Ядвіга і Станіслаў. Рады хворым і здаровым. 1935—1939; Гаспадарскі зборнік. 1937—1939; Якуб Колас. Новая зямля. 1928—1929; Зборнік “Беларускіх ведамасьцей”. 1921.

Кніжкі ў каталёгу падаюцца паводле гадоў выданьня ў алфавітным парадку. Прозьвішчы, псэўданімы і крыптанімы аўтараў і назвы кніжак падаюцца ў арыгіналь-

[9] Traczuk J. Prasa białoruska w II Rzeczypospolitej // Studia polono–slavica orientalia. Acta litteraria. T. XIII. Warszawa, 1992. — *Ю.Т.*

Гл. таксама зн. 41 — *А.С.*

[10] Каталёг (кнігасьпіс) беларускіх кніг кнігарні “Пагоня”. Вільня, 1937.

най беларускай вэрсіі. Для псэўданімаў і крыптанімаў у асобным сьпісе ў канцы працы зьмешчаныя прозьвішчы аўтараў за выняткам некаторых агульнавядомых, як Янка Купала, Якуб Колас і іншых.

Месца выданьня кніжкі называецца ў каталёгу толькі ў выпадку яе выданьня ў іншым горадзе, чым Вільня, на якую ў разгляданую пару прыпала 98% усяго кнігавыданьня ў Польшчы.

Паводле зьвестак аўтара, у 1921—1939 г. у Польшчы агулам былі апублікаваныя 466 кніжак і брашур на беларускай мове. Ацэньваючы гэты сьціплы вынік, трэба мець на ўвазе гістарычныя перадумовы. У выніку культурнай палянізацыі пераважнай часткі беларускай шляхты, адзінага, апроч часткі духавенства, грамадзкага пласта, які вызначаў попыт на друкаванае слова, да канца XIX ст. кніжка на сучаснай беларускай мове была надзвычай рэдкаю зьявай. Паводле зьвестак Дзяржаўнай бібліятэкі БССР (цяпер Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі), на працягу XIX ст. на гэтай мове агулам было выдадзена 38 кніжак[11]. Пры гэтым варта заўважыць, што каля паловы гэтай лічбы станавілі кніжкі, якія звонку (паводле назвы) выглядалі як польскія ці расейскія, але іх зьмест часткова, радзей цалкам, быў надрукаваны на беларускай мове[12].

Пэўнае ажыўленьне выдавецкай дзейнасьці наступіла адно на пачатку XX ст., галоўным чынам з ініцыятывы дзяячоў узьнікаючага беларускага нацыянальнага руху[13]. Паводле падлікаў С.Х. Александровіча, у 1901—1917 г. выйшла 245 выданьняў, у тым ліку 14 календароў[14], а паводле зьвестак Дзяржаўнай бібліятэкі БССР у наступных 1918—1920 г. было выдадзена 155 кніжак, у тым ліку 6 календароў і 3 мапы[15].

Такім чынам, за дваццацігодзьдзе 1901—1920 агулам, калі не лічыць календароў і мапаў, было выдадзена 377 беларускіх кніжак, г.зн. у сярэднім 19 выданьняў за год. Сярэднегадавы паказьнік выдавецкай дзейнасьці ў 1921—1939 г. на тэрыторыі Польшчы складаў 24 кніжкі, то бок быў вышэйшы, чымся ў папярэднім дваццацігодзьдзі. Параўноўваючы гэтыя зьвесткі, трэба мець на ўвазе тое, што кніжкі, выдадзеныя да 1920 г., у прынцыпе прызначаліся для чытачоў з усёй Беларусі, тады як у міжваенную пару — толькі для насельніцтва яе заходняй часткі, якая апынулася ў межах II Рэчы Паспалітай, у зьвязку з чым рэальнае адрозьненьне абодвух паказьнікаў было яшчэ большым.

Таму можна канстатаваць пэўны прагрэс у гэтай галіне, аднак ён быў малазначны. Галоўнай прычынай гэтага былі як сьціплыя фінансавыя магчымасьці выдаўцоў, так і слабая запатрабаванасьць кнігі чытачамі. Зьмяніць гэтую сытуацыю магла спрыяльная культурная палітыка дзяржавы, якая б палягала ў спансаваньні выдаўцоў і ўзьдзеяньні на разьвіцьцё грамадзкага попыту на кніжку. Значэньне гэтага чыньніка ілюструюць вынікі выдавецкай дзейнасьці ў Беларускай ССР, у якой, нягледзячы на зьменлівыя ідэалягічныя ўмовы, а ў трыццатых гадох і русіфікацыйныя тэндэнцыі, у параўнальны пэрыяд 1921—1939 агулам было выдадзена 10 573 назвы на беларускай мове[16]. Такім чынам, паказьнік выдавецкай прадукцыі ў БССР (556 назваў штогод) быў, пры ня надта адрознай колькасьці насельніцтва, у 23 разы вышэйшы, чым у Заходняй Беларусі.

---

[11] Кніга Беларусі 1517—1917. Зводны каталог. Мінск, 1986. С. 196.

[12] Да беларускіх кніжак залічаныя ў ліку іншых: Czeczot Jan. Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1844 і 1846, у якіх беларускія песьні ў арыгінале займаюць частку тэксту; альбо опэра Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча “Sielanka”, хоць у ёй толькі адна асоба гаворыць па–беларуску, астатнія — па–польску.

[13] Гл. артыкул “З гісторыі беларускага выдавецкага руху ў 1902—1905 гадох”; а таксама “Дзейнасьць беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу”.

[14] Александровіч С.Х. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971. С. 163.

[15] Летапіс беларускага друку. Ч. III. 1917—1924. Менск, 1927. С. VIII, 4—20.

[16] Друк Беларускай ССР 1918—1980. Статыстычны зборнік. Мінск, 1983.

## Выдавецкая панарама

Падставай для вызначэньня выдаўца кніжкі, як правіла, служыла адпаведная інфармацыя, разьмешчаная на яе тытульнай старонцы. Аднак цягам пошукаў трапілася каля 50 кніжак, на якіх выдавец не падаваўся. У колькіх дзясятках выпадкаў нястачу гэтай інфармацыі ўдалося запоўніць, выкарыстоўваючы ўскосныя крыніцы, галоўным чынам, інфармацыю з прэсы. Згодна з гэтымі падлікамі, выданьнем беларускіх кніжак у 1921—1939 г. займаліся 96 выдаўцоў, у тым ліку 44 арганізацыі і ўстановы (выдавецкія, грамадзка–палітычныя, рэлігійныя і іншыя), 21 рэдакцыя пэрыёдыкаў і 31 прыватная асоба (у тым ліку 16 аўтараў). Агулам яны выдалі 428 кніжак, г.зн. 92% усіх выданьняў, пералічаных у далучаным каталёгу.

Як паказана ў табліцы 1, выдавецкая дзейнасьць паасобных выдаўцоў была вельмі адрознай. 47 выдаўцоў за гэты шматгадовы пэрыяд выдалі ўсяго па адной кніжцы і толькі сем выдаўцоў — больш за дзесяць. Да гэтых апошніх належалі: Беларускае выдавецкае таварыства, віленскае выдавецтва Барыса Клецкіна, выдавецтва Уладзіслава Знамяроўскага, Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, а таксама рэдакцыі хадэцкіх пэрыёдыкаў “Chryścjanskaja Dumka” і “Biełaruskaja Krynica”[17]. Ян Станкевіч публікаваў кніжкі пад эгідай Беларускай сялянскай партыі, яе друкаванага органа “Народ” і індывідуальна.

Неаднароднасьць заходнебеларускай выдавецкай панарамы абумоўлівалі ідэалягічныя чыньнікі, якія з рознай сілай праяўлялі сябе ў міжваенную пару. У першыя паваенныя гады беларускі рух у Польскай рэспубліцы хоць і ня быў аднастайным з ідэйнага гледзішча, аднак не выяўляў такой падзеленасьці, да якой у 1925/26 г. прывяло ўзьнікненьне і дзейнасьць Беларускай сялянска–работніцкай грамады. У Вільні дзейнічаў Беларускі нацыянальны камітэт, які да ўзьнікненьня Грамады прызнаваўся ўсімі значнымі грамадзка–палітычнымі групоўкамі агульнанацыянальным прадстаўніцтвам беларусаў у польскай дзяржаве. Увосень 1922 г. — дзякуючы пасьпяховаму выніку выбараў — у сойм і сэнат трапілі 14 прадстаўнікоў беларускага народу[18], якія стварылі супольны парлямэнцкі клюб. Шмат беларускіх дзеячоў разьлічвалі на фармаваньне пазытыўнага *modus vivendi* ўва ўмовах польскай дзяржаўнасьці, таму жывыя былі палянафільскія тэндэнцыі[19].

У гэты час на выдавецкім полі важнае месца займаў Антон Луцкевіч — здольны публіцыст, шматгадовы палітычны дзяяч, з 1921 г. кіраўнік Беларускага нацыянальнага камітэту і выкладнік літаратуры ў Віленскай беларускай гімназіі. Ён кіраваў ня толькі Беларускім выдавецкім таварыствам, але таксама і заснаванай ім Беларускай школьнай радай, масавай грамадзкай арганізацыяй — Таварыствам беларускай школы, а з 1923 г. таксама і Беларускім навуковым таварыствам[20]. Кожная з гэтых арганізацыяў рыхтава-

---

[17] “Biełaruskuju Krynicu” (“Biełaruskaja Krynica”; да 1925 г. і з 17.11.1939 г. “Krynica”) больш правільна называць тыднёвікам або газэтаю. — *А.С.*

[18] Больш карэктна было б пісаць пра паслоў і сэнатараў, кандыдатуры якіх вылучаў Беларускі цэнтральны выбарны камітэт, бо частка беларускага насельніцтва галасавала і за сьпісы польскіх партыяў (у прыватнасьці, ад сялянскай партыі “Вызваленьне” былі абраныя пяць беларусаў). — *А.С.*

[19] Станкевіч А. Беларускі хрысьціянскі рух. Вільня, 1939. С. 169—170; Найдзюк Я. Беларусь учора і сяньня. Менск, 1944. С. 190—195. — *Ю.Т.*

Пасьля перавыданьня ў 1993 г. гэтая кніга мела такі назоў: Найдзюк Язэп, Касяк Іван. Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс гісторыі Беларусі. Праца Я. Найдзюка “Беларусь учора і сяньня”, выдадзеная першы раз у 1944 г. у Менску, уключаная ў яе як першая частка пад назовам “Ад старажытных часоў да другой сусьветнай вайны”. — *А.С.*

[20] Сидоревич А. Антон Луцкевич // Нёман. 1990. № 7. — *Ю.Т.*

Як старшыня Беларускага навуковага таварыства Антон Луцкевіч фігуруе з 1921 г. (гл.: Гадавік Беларускага навуковага таварыства. Кн. І. Вільня 1933. С. 10). — *А.С.*

**Табліца 1.** Колькасьць кніжак на беларускай мове паводле выдаўцоў (1921—1939)

I. *Арганізацыі і ўстановы*

| | |
|---|---|
| Беларускае выдавецкае таварыства | 51 |
| Віленскае выдавецтва Б. Клецкіна | 32 |
| Выдавецтва У. Знамяроўскага | 21 |
| Выданьні Яна Станкевіча | 16 |
| Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры | 15 |
| Мэтадысты (місія ў Варшаве і інш.) | 10 |
| Беларускае навуковае таварыства | 10 |
| Тэатральная бібліятэчка Мікалая Шылы | 10 |
| Беларускае каталіцкае выдавецтва | 8 |
| Выдавецтва “Компас” у Лодзі | 7 |
| Рабоча–сялянскі пасольскі клюб “Змаганьне” | 6 |
| Таварыства беларускай школы | 6 |
| Таварыства беларускай асьветы | 6 |
| Беларуская народная бібліятэка | 5 |
| Праваслаўная мітраполія ў Варшаве | 4 |
| “Цэнтрасаюз” | 4 |
| Кнігарня “Пагоня” | 4 |
| Кнігарня Станіслава Станкевіча | 4 |
| Беларуская школьная рада | 3 |
| Беларуская сялянска–работніцкая грамада | 3 |
| Камуністычная партыя Польшчы | 3 |
| Рыма–каталіцкая архідыяцэзійная курыя ў Вільні | 2 |
| Беларускі нацыянальны камітэт | 2 |
| Беларуская гімназія ў Вільні | 2 |
| Беларускі студэнцкі саюз | 2 |
| Таварыства прыяцеляў беларусаведы ўнівэрсытэту Сьцяпана Батуры | 2 |
| Каапэратыўны саюз спажыўцоў у Вільні | 2 |
| Беларускі музычна–драматычны гурток | 2 |
| Аб’яднаньне беларускіх жанчын ім. Цёткі | 2 |
| Польскія грамадзкія арганізацыі ў Наваградку | 2 |
| Беларускае грамадзянскае згуртаваньне | 2 |
| Беларуская радыкальна–сялянская партыя | 1 |
| Беларускі пасольскі клюб | 1 |
| Беларускі рэлігійна–грамадзкі саюз | 1 |
| Брытанскае і замежнае біблійнае таварыства | 1 |
| Усходняя місія айцоў езуітаў у Альбярціне | 1 |
| Кляштар айцоў марыянаў у Друі | 1 |
| Кнігарня “Надзея” ў Вільні | 1 |
| Дзяржаўнае выдавецтва школьных кніжак | 1 |
| Таварыства “Беларуская хатка” ў Вільні | 1 |
| Таварыства “Асьвета на Віленшчыне” | 1 |
| Таварыства “Рунь” у Беластоку | 1 |
| Часовая беларуская рада | 1 |
| Краёвая сувязь | 1 |
| **Разам** | **261** |

II. *Рэдакцыі пэрыядычных выданьняў*

| | |
|---|---|
| “Biełaruskaja Krynica” | 38 |
| “Chryścjanskaja Dumka” | 33 |
| “Белпрэс” | 6 |
| “Голас Беларуса” | 6 |
| “Калосьсе” | 6 |
| “Шлях Моладзі” | 5 |
| “Самапомач” | 5 |
| “Наша Думка” | 3 |
| “Новае Жыцьцё” | 2 |
| “Новы Шлях” | 2 |
| “Змаганьне” | 2 |
| “Беларускі Звон” | 1 |
| “Грамадзкі Голас” | 1 |
| “Наша Будучына” | 1 |
| “Родны Край” | 1 |
| “Саха” | 1 |
| “Сялянская Ніва” | 1 |
| “Студэнцкая Думка” | 1 |
| “Сын Беларуса” | 1 |
| “Воля Народу” | 1 |
| “Заранка” | 1 |
| **Разам** | **117** |

III. *Прыватныя асобы*

| | |
|---|---|
| Рыгор Шырма* | 6 |
| кс. Станіслаў Глякоўскі і Язэп Найдзюк | 5 |
| Максім Гарэцкі | 4 |
| Фабіян Ярэміч | 3 |
| Сяргей Паўловіч | 3 |
| А. Яцына | 2 |
| А. Маркоўскі | 2 |
| Ігнат Мятла | 2 |
| А. Васіленя | 2 |
| Францішак Аляхновіч | 1 |
| Адам Більдзюкевіч | 1 |
| Янка Багдановіч** | 1 |
| Харытановіч | 1 |
| С. Чыжэўскі | 1 |
| Язэп Гапановіч | 1 |
| М. Голуб–Бучынская | 1 |
| Антон Грыневіч | 1 |
| Мікалай Ільляшэвіч | 1 |
| Ніна Ільляшэвіч | 1 |
| Бутрым Каляда | 1 |
| Антон Луцкевіч | 1 |
| Язэп Малецкі | 1 |

| | |
|---|---|
| Пётар Мятла | 1 |
| Антон Неканда–Трэпка | 1 |
| Баляслаў Пачопка | 1 |
| кс. Ян Семашкевіч | 1 |
| Сяргей Сіняк | 1 |
| В. Труцько | 1 |
| Антон Васілеўскі | 1 |
| Людвіка Войцік | 1 |
| **Разам** | **50** |
| **Агулам групы I, II, III** | **428** |

* Шырма Рыгор (1892—1978) — беларускі культурны і грамадзкі дзяяч, у міжваенны пэрыяд адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. — *А.П.*

** Багдановіч Янка (1906—1990) — беларускі нацыянальны дзяяч, пісьменьнік і публіцыст, адзін з выдаўцоў часопіса “Шлях Моладзі” (1929—1938 гг.). — *А.П.*

ла да друку школьныя падручнікі і іншыя кніжкі і выдавала іх пад сваёй эгідай, рашэньне аб чым прымаў Луцкевіч. Ён таксама вырашаў, выданьне якіх кніжак замаўляць выдавецтву Клецкіна, зь якім падтрымлівалася цесная супраца[21].

Усе названыя арганізацыі і выдавецтвы, а таксама некалькі рэдакцыяў часопісаў складалі свайго роду выдавецкі холдынг Луцкевіча. Пры ягонай арганізацыйнай і фінансавай падтрымцы ў 1921—1925 г. былі выдадзеныя каля 80 кніжак, г.зн. больш за 70% усёй выдавецкай прадукцыі той пяцігодкі. Адпаведна, сьціплай была пазыцыя астатніх выдаўцоў: за гэты час хадэцкая "Krynica" выдала толькі 6 кніжак, субсыдыяваныя адміністрацыйнымі ўладамі палянафільскія арганізацыі — 6 і мэтадысты — 4.

У 1925/26 г. на заходнебеларускай палітычнай сцэне адбыліся істотныя зьмены, якія адбіліся таксама і на выдавецкай дзейнасьці. Беларускія палянафілы страцілі надзею, што польскія ўлады вырашаць неўзабаве найважнейшыя эканамічныя і культурныя праблемы, якія турбавалі сялянства і інтэлігенцыю. Палітыка кожнага новага ўраду мела на мэце ўмацаваньне падзелу Беларусі і палянізацыю яе заходняй часткі, чаму служыла польскае вайсковае і цывільнае асадніцтва, ліквідацыя беларускай каапэрацыі, ператварэньне адносна шматлікіх у часе існаваньня Сярэдняй Літвы беларускіх школаў у польскія, падпарадкаваньне палянізацыйным мэтам Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў ды іншае. У гэтай сытуацыі сярод беларускага насельніцтва і палітычных дзяячоў нарасталі апазыцыйныя настроі, якія эфэктыўна выкарыстоўвала камуністычная прапаганда.

У канцы чэрвеня 1925 г. колькі дэпутатаў выйшлі зь Беларускага пасольскага клюбу і ўтварылі асобны Пасольскі клюб Беларускай сялянска–работніцкай грамады. Неўзабаве, у жніўні таго ж году, у Гданьску адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў гэтага клюбу зь дзяячамі камуністычных партыяў савецкай Беларусі і Польшчы[22], на якой было вырашана стварыць на заходнебеларускіх землях Польшчы масавую радыкальную арганізацыю — Беларускую сялянска–работніцкую грамаду, былі ўзгодненыя яе праграмныя палажэньні і арганізацыйная структура[23]. Арганізатарам Грамады была камуністычная партыя Заходняй Беларусі[24].

Радыкальныя лёзунгі БСРГ траплялі на ўдзячную грамадзкую глебу, таму новая арганізацыя лёгка здабыла масавую падтрымку і ў канцы 1926 г. нібыта налічвала больш за 100 тыс. членаў. Адначасна пад акампанэмэнт грубых публічных нападак грамадаўцаў на сваіх палітычных праціўнікаў, асабліва на хадэцкіх дзяячоў, якія кіраваліся нацыянальнай ідэалёгіяй, сярод беларускіх дзяячоў адбывалася палітычная дыфэрэнцыяцыя[25]. Гэта прывяло да заняпаду дагэтулешняга Беларускага нацыянальнага камітэту і дасягненьня кантролю грамадаўцамі над найбольшай грамадзкай арганізацыяй — Таварыствам беларускай школы і яго тэрытарыяльнымі структурамі.

Растучаму ўплыву левых сілаў, якія падтрымліваў Луцкевіч, Беларуская хрысьціянская дэмакратыя супрацьпаставіла сваю праграму, якая базавалася на хрысьціянскай і нацыянальнай ідэалёгіі. Відавочнай праявай насьпяваючага расколу быў выхад у 1926

---

[21] Дзейнасьць абодвух выдавецтваў была таксама скаардынаванай: пасьля заняпаду ў 1932 г. Беларускага выдавецкага таварыства выдавецтва Клецкіна ўжо не апублікавала ніводнай беларускай кніжкі. — *Ю.Т.*

Д–р Арсень Ліс падае, што Беларускае выдавецкае таварыства спыніла сваю дзейнасьць у 1930 г. (гл.: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. С. 352). — *А.С.*

[22] У канфэрэнцыі, што адбылася ў жніўні 1925 г. у Сопаце пад Гданьскам, бралі ўдзел прадстаўнікі кампартыі Польшчы, КПЗБ, КП(б)Б, беларускія паслы на сойм і грамадзка–культурныя дзеячы. — *А.С.*

[23] Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939). Минск, 1966. С. 132.

[24] Арэхва М. Да пытання аб гісторыі камуністычнай партыі Заходняй Беларусі // Камуніст Беларусі. 1957. № 8.

[25] Хадэцкі бок таксама ня быў асабліва далікатны ў палеміцы; іншы раз выступы ў "Biełaruskaj Krynicy" нагадвалі даносы на сапраўдных і ўяўных камуністаў, межавалі з расізмам. — *А.С.*

г. з узначальванага Луцкевічам Беларускага навуковага таварыства хадэцкіх дзяячоў на чале зь іх лідэрам, ксяндзом Адамам Станкевічам[26]. Адначасна хадэцыя распачала стварэньне ўласнай грамадзкай і культурнай інфраструктуры. Увесну 1926 г. пры яе вызначальным удзеле была створаная новая палітычная партыя — Беларускі сялянскі саюз, а таксама Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, якія, паводле задумы арганізатараў, меркавалася зрабіць процівагай для Грамады і Таварыства беларускай школы.

Важнай ініцыятывай БХД у выдавецкай галіне было заснаваньне ў сярэдзіне 1926 г. уласнай друкарні імя Францішка Скарыны — адзінай беларускай друкарні ў Вільні. Яе стваральнікамі былі ксяндзы Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі, кіраўнік кляштара айцоў марыянаў у Друі ксёндз Андрэй Цікота і віцэ–старшыня Беларускага сялянскага саюзу Фабіян Ярэміч. Друкарня дзейнічала на камэрцыйнай аснове, рэалізоўвала замовы розных беларускіх, польскіх і расейскіх арганізацыяў, аднак яе галоўнай задачай было абслугоўваньне выдаўцоў, зьвязаных з БХД[27].

Уласная друкарня забясьпечвала хадэцкім дзяячам значна лепшыя магчымасьці разьвіцьця выдавецкай дзейнасьці. Аднак з розных прычынаў яны не стварылі аднаго буйнога выдавецтва, аддаўшы перавагу дзейнасьці пад шыльдамі розных арганізацыяў, часопісаў і прыватных асобаў. Такая форма дзейнасьці, напэўна, вынікала з страху перад магчымымі рэпрэсіямі з боку ўладаў, што пры функцыянаваньні адной буйной фірмы магло б абцяжваць рэалізацыю выдавецкіх плянаў БХД. Фактычна гэтая дэканцэнтрацыя была ў вялікай ступені ўяўнай, бо дзейнасьць гэтых шматлікіх выдаўцоў пераважна натхнялася духоўным правадыром хадэцыі — ксяндзом Адамам Станкевічам.

У склад гэтай нефармальнай выдавецкай групы БХД уваходзілі наступныя выдаўцы (колькасьць апублікаваных імі кніжак паданая ў табліцы 1): Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (1926—1936), Беларускае каталіцкае выдавецтва (1930—1939), кнігарня “Пагоня” (1927—1937), Беларускі нацыянальны камітэт (1930—1933), канвэнт айцоў марыянаў у Друі (1932), рэдакцыі часопісаў “Krynica”, ад канца 1925 г. “Biełaruskaja Krynica” (1921—1937), “Chryścjanskaja Dumka” (1928—1939), “Шлях Моладзі” (1929—1939). Апроч таго, да гэтай групы можна залічыць хадэцкіх дзяячоў: ксяндзоў Станіслава Глякоўскага і Яна Семашкевіча, а таксама Язэпа Найдзюка, Язэпа Малецкага і Яна Багдановіча, якія агулам выдалі 8 кніжак.

Пералік беларускіх хадэцкіх выдаўцоў выпадае дапоўніць Віленскай рыма–каталіцкай архідыяцэзіяй, якая дзякуючы беларускім ініцыятывам прафінансавала выданьне дзьвюх ці трох пазыцыяў — у 1927 г. катэхізісу кс. Язэпа Рэшаця і ў 1939 г. эвангельля ў перакладзе на беларускую мову кс. Вінцэнта Гадлеўскага[28].

Вынікам дзейнасьці хадэцкай выдавецкай групы ў міжваенную пару былі 134 кніжкі (ня ўлічваючы нэаўніяцкіх выданьняў), а іх удзел у сукупнай тагачаснай беларускамоўнай выдавецкай прадукцыі ў Польшчы дасягаў 30%. Такім чынам, гэтая група выйшла на вядучае месца на заходнебеларускай выдавецкай ніве. Гэтаму асабліва спрыялі творчы патэнцыял аўтараў і іх ідэйная пазыцыя, фінансавая падтрымка беларускага каталіцкага духавенства, наяўнасьць уласнай друкарні і кнігарні, а таксама сеткі гурткоў Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры, якія займаліся распаўсюджаньнем кніжак у рэгіёнах.

У дзейнасьці выдавецкай групы БХД існавала пэўная спэцыялізацыя. Кніжкі на каталіцкую рэлігійную тэматыку выдаваліся рэдакцыяй часопіса “Chryścjanskaja Dumka” і Беларускім каталіцкім выдавецтвам. Яны складалі прыблізна адну трацiну ўсіх выдад-

[26] Луцкевіч А. Пятнаццаць гадоў працы Беларускага навуковага таварыства // Гадавік Беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1933. С. 13—14.

[27] Цыпрыяновіч С. Тамсама.

[28] Я не ўстанавіў выдаўца катэхізісу Язэпа Рэшаця “Асновы хрысьціянскай веры для беларускага народу” (Вільня, 1927), аднак не выключаю, што яго магла выдаць Віленская архідыяцэзія.

зеных гэтай групай кніжак. Рэшта, якая ахоплівала розныя тэматычныя катэгорыі, прызначалася для ўсіх чытачоў, без увагі на іх рэлігійныя перакананьні. У адрозьненьне ад большасьці беларускіх выдавецтваў, кніжкі хадэцкай групы выходзілі як лацінскім, так і кірылічным алфавітам, што было зроблена для таго, каб яны больш эфэктыўна траплялі ў рукі чытачоў каталіцкага і праваслаўнага веравызнаньня. Толькі каталіцкая рэлігійная літаратура пасьлядоўна выдавалася лацінскім алфавітам.

Выдавецкія дасягненьні БХД былі значна лепшымі, чымся яе палітычных праціўнікаў, якія друкавалі больш прэсу і ўлёткі, чымся кніжкі. У 1926 г. Грамада выдала толькі 3 кніжкі, а створаны пасьля яе разгрому ў 1927 г. Пасольскі клюб "Змаганьне" — 6 кніжак, галоўным чынам працы Маркса, Энгельса, Пляханава і Сталіна. Не праяўляла лішняй актыўнасьці ў гэтай галіне нелегальная камуністычная партыя (КПП і КПЗБ), выдаўшы ў міжваенную пару ўсяго 3 кнігі на беларускай мове.

Разгром Грамады і страх перад зьняволеньнем прымусілі Луцкевіча адмовіцца ад дагэтулешняй супрацы зь левымі сіламі і перайсьці на згодніцкія з польскімі ўладамі пазыцыі[29]. Гэтае рашэньне адбілася на яго выдавецкай дзейнасьці. У траўні 1929 г. ён быў выдалены з Таварыства беларускай школы[30] і пазбаўлены сродкаў на кіраваньне дзейнасьцю Беларускага выдавецкага таварыства. Таму пасьля добрых вынікаў у 1927—1928 г. выдавецкая дзейнасьць групы Луцкевіча пачала імкліва занепадаць. Апошняй яе праявай было выданьне ў 1933 г. у форме асобных брашур адбіткаў колькіх артыкулаў, зьмешчаных у спансараваным адукацыйнымі ўладамі "Гадавіку Беларускага навуковага таварыства".

Наступную паводле колькасьці выданьняў групу выдаўцоў складалі беларускія арганізацыі, субсыдыяваныя адміністрацыйнымі ўладамі, якія з гэтай прычыны называлі палянафільскімі. Гэтае азначэньне часта не супадала з назіраньнямі ўладаў, якія ў дэклараваных гэтымі арганізацыямі праўрадавых пазыцыях угледжвалі жаданьне атрымаць дзяржаўныя фінансавыя датацыі. Гэтыя меркаваньні найчасьцей не былі беспадстаўныя, і пасьля пачатковага нэгатыўнага досьведу ўлады спынялі фінансаваньне, што з прычыны браку значнай грамадзкай падтрымкі прыводзіла гэтыя арганізацыі да заняпаду. Таму іх жыцьцё найчасьцей было кароткае і абмяжоўвалася выданьнем адной–дзьвюх кніжак.

У дваццатых гадох да гэтай групы выдаўцоў належалі (колькасьць выдадзеных імі кніжак пададзеная ў табліцы 1): Беларуская радыкальна–народная партыя, Беларускі

---

[29] Bergman A. Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1984. S. 187—188. — *Ю.Т.*

Адзін зь мітаў, створаны апанэнтамі А. Луцкевіча ў 1919 г. і ўваскрошаны бальшавіцкім друкам і заходнебеларускімі правымі ў канцы 1920–х г. У 1931 г. быў нават распаўсюджаны камунікат, падпісаны няіснай прэсавай агенцыяй, быццам Луцкевіч "рашуча выказаўся на карысьць палянафільскага курсу". У адказ ён напісаў:

> У сучасных варунках, калі на беларускае школьніцтва ў польскім гаспадарстве сыплюцца балючыя ўдары, калі беларуская праца наагул сустракаецца з чысьленымі перашкодамі з боку адміністрацыйных уладаў, — падобнае [палянафільскае] выступленьне, якое прыпісывае мне таямнічы камунікат, сьведчыла б ня толькі аб адсутнасьці ў мяне пачуцьця асабістае і нацыянальнае годнасьці, але такжа і аб поўным заніку палітычнага змыслу (Беларускі Звон. 1931. 5 кастрычніка; Przegląd Wileński. 1931. № 17).

Луцкевіча звольнілі з працы ў Віленскай беларускай гімназіі, ён мусіў з двума сынамі перабрацца ў аднапакаёвую кватэру. Пазьней Я. Станкевіч сьведчыў: "Прыблізна ад 1933 да 1939 г. А. Луцкевіч проста галадаў, але ня йшоў на ніякія кампрамісы із сваім нацыянальным сумленьнем. Не было б гэтага, калі б ён быў палянафіл" (Бацькаўшчына. 1958. № 19). І ў другім артыкуле: у 1933—1939 г. А. Луцкевіч "даслоўна галадаваў" (Бацькаўшчына. 1958. № 35). — *А.С.*

[30] Выключэньне А. Луцкевіча з ТБШ было выклікана яго палітычнымі паводзінамі: ён асуджаў палітыку згортваньня "беларусізацыі" і новай эканамічнай палітыкі ў БССР, а таксама выступаў супраць таго, што КПЗБ і беларускія паслы з клюбу "Змаганьне" ператваралі ТБШ з культурніцкай у палітычную арганізацыю. — *А.С.*

музычна–драматычны гурток, Беларускае грамадзянскае згуртаваньне, Часовая беларуская рада, таварыства “Беларуская хатка”, таварыства “Асьвета на Віленшчыне”, Краёвая сувязь ды рэдакцыі газэт “Беларускі Звон” і “Грамадзкі Голас”.

У выніку заміраньня яўнай дзейнасьці левых арганізацыяў і самастойнай пазыцыі хадэцыі ў канцы дваццатых гадоў польскія ўлады зрабілі чарговую спробу скіраваць беларускі рух на згодніцкія пазыцыі. Такую надзею абуджала пазыцыя колькіх вядучых дзяячоў Грамады: Радаслава Астроўскага, Антона Луцкевіча[31] і Фабіяна Акінчыца (гл. стар. 373. — *Рэд.*), якія пасьля яе ліквідацыі згадзіліся супрацоўнічаць з польскімі ўладамі. У верасьні 1930 г. яны стварылі Цэнтральны саюз беларускіх культурных і гаспадарчых арганізацыяў (т.зв. Цэнтрасаюз), які, паводле задумы яго стваральнікаў, меў быць чарговым “холдынгам”, у якім гуртаваліся б створаныя зь цягам часу канкурэнтныя хадэцкім арганізацыі, такія, як Таварыства беларускай асьветы, Таварыства беларускіх жанчын, студэнцкая карпарацыя “Скарынія” і іншыя.

Група Астроўскага дзейнічала ў 1930—1934 г. пры фінансавай падтрымцы адміністрацыйных уладаў, аднак не разгарнула, апроч часопісаў, спаважнейшай выдавецкай дзейнасьці. У вялікай меры на гэта паўплывалі канфлікты ў кіраўніцтве групы, у тым ліку на фінансавай глебе, у выніку якіх з “Цэнтрасаюзу” выйшлі ці былі выдаленыя Фабіян Акінчыц, Антон Луцкевіч, Ян Станкевіч і іншыя асобы зь вялікім досьведам выдавецкай працы[32].

Таму ў рамках заплянаванай “Сельскагаспадарчай бібліятэчкі” “Цэнтрасаюзу” выйшла ўсяго адна кніжка (Бусел С. Матыльковыя расьліны. 1932), апроч таго, былі выдадзеныя тры брашуры А. Русаковіча з крытыкай сацыяльнай і эканамічнай палітыкі ў савецкай Беларусі і пад шыльдай Таварыства беларускай асьветы — шэсьць кніжак.

Да выданьняў, фінансаваных уладамі, трэба залічыць таксама сэрыю “Беларуская народная бібліятэка”, у рамках якой у 1932—1934 г. у перакладзе на беларускую мову выйшлі пяць брашур польскіх аўтараў (А. Баброўскага, С. Баркоўскага, К. Навіцкага і Я. Альхоўскага), якія прапагандавалі эканамічную палітыку ўраду і крытыкавалі становішча ў БССР. Агулам палянафільскія выдавецтвы ўзбагацілі кніжны рынак 28 назвамі, доля якіх у агульнай выдавецкай прадукцыі міжваеннай пары склала 6%.

У тагачасных варунках беларускага палітычнага жыцьця было нямала выдаўцоў, якія з розных прычынаў адмаўляліся супрацоўнічаць з хадэцыяй, левымі ці палянафільскімі арганізацыямі. Таму яны праводзілі самастойную, незалежную ад варагуючых груповак выдавецкую дзейнасьць, якая, аднак, з прычыны сьціплых фінансавых магчымасьцяў давала слабы эфэкт. Спаміж іх адносна добрыя вынікі паказаў Ян Станкевіч — мовазнаўца, гісторык і незалежны палітык, які пад шыльдай сваёй эфэмэрнай Беларускай сялянскай партыі і яе друкаванага органа “Народ”, а таксама індывідуальна выдаў 16 назваў, у тым ліку колькі ўласных філялягічных працаў. Заўважную ролю адыграў таксама Мікола Шыла, былы эсэраўскі дзяяч, які ў 1935—1937 г. падрыхтаваў да друку і выдаў у рамках “Тэатральнай бібліятэчкі” 10 п’ес для аматарскіх тэатральных калектываў.

У міжваенную пару ў Польшчы існавала колькі ўстановаў, ня зьвязаных беспасярэдне зь беларускім рухам, якія, рэалізуючы ўласныя мэты, займаліся выданьнем літаратуры на беларускай мове. Сярод іх заслугоўваюць увагі: місія мэтадыстаў у Варшаве, выдавецтва баптыстаў “Компас” у Лодзі, Праваслаўная мітраполія ў Варшаве, асяродак айцоў езуітаў у Альбярціне, а таксама ўніяцкі Беларускі рэлігійна–грамадзкі саюз. Варта таксама адзначыць Таварыства прыяцеляў беларусаведы, якое дзейнічала пры ўнівэрсытэце Сьцяпана Батуры ў Вільні, Дзяржаўнае выдавецтва школьных кніжак у Львове, а таксама польскія грамадзкія арганізацыі ў Наваградку.

---

[31] А. Луцкевіч ня быў сябрам Грамады, як і пазьней не ўваходзіў у кіраўніцтва Цэнтрасаюзу. — *А.С.*

[32] Станкевіч А. Тамсама, с. 199—200.

## Тэматычная структура

Тэматычную структуру кніжак, выдадзеных у паасобныя гады міжваеннай пары, ілюструе табліца 2. У ёй прыняты падзел на сем тэматычных групаў, пазначаных лічбамі наступным чынам:

I. школьныя падручнікі і пэдагагічная літаратура (без падручнікаў для рэлігійнага навучаньня);
II. рэпэртуарная літаратура і сьпеўнікі;
III. мастацкая літаратура;
IV. рэлігійная літаратура, улучна з падручнікамі для навучаньня рэлігіі;
V. грамадзка–палітычная літаратура;
VI. мовазнаўства, літаратуразнаўства, асьвета і культура;
VII. астатняя літаратура.

**Група I: школьныя падручнікі і пэдагагічная літаратура.** Як паказана ў табліцы 2, выданьне школьных падручнікаў і пэдагагічнай літаратуры ў паасобных гадох міжваеннай пары істотна адрозьнівалася, што адлюстроўвала зьменлівую сытуацыю беларускага школьніцтва як найбольшага спажыўца гэтай літаратуры.

У 1921 г. на заходнебеларускіх землях улучна зь Сярэдняй Літвой працавала каля 300 беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў[33]. Забесьпячэньнем гэтых школаў займаўся створаны ў рамках Часовай урадавай камісіі Сярэдняй Літвы аддзел беларускіх школаў на чале з Браніславам Тарашкевічам. У тым самым годзе была выдадзеная арытмэтыч-

**Табліца 2.** Кнігавыданьне паводле тэматычных групаў

| Гады | Агулам | I | II | III | IV | V | VI | VII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1921 | 34 | 11 | 5 | 2 | 2 | 3 | 4 | 7 |
| 1922 | 15 | 5 | 5 | 2 | 1 | 2 | – | – |
| 1923 | 25 | 7 | 3 | 9 | – | 3 | 1 | 2 |
| 1924 | 26 | 7 | 4 | 4 | – | 2 | 4 | 5 |
| 1925 | 13 | 3 | 2 | – | 4 | 2 | 1 | 1 |
| 1926 | 30 | 3 | 5 | 5 | 6 | 6 | 1 | 4 |
| 1927 | 47 | 5 | 15 | 15 | 7 | 1 | 1 | 3 |
| 1928 | 45 | – | 8 | 17 | 7 | 4 | 3 | 6 |
| 1929 | 40 | 7 | 5 | 11 | 5 | 7 | 3 | 2 |
| 1930 | 20 | 2 | 1 | 8 | 5 | 3 | 1 | – |
| 1931 | 20 | 3 | 1 | 6 | 2 | 6 | 1 | 1 |
| 1932 | 22 | 2 | 1 | 3 | 5 | 6 | 1 | 4 |
| 1933 | 26 | – | 4 | 4 | 4 | 9 | 5 | – |
| 1934 | 13 | – | 1 | 6 | 4 | 2 | – | – |
| 1935 | 21 | – | 3 | 6 | 5 | 2 | 1 | 4 |
| 1936 | 18 | 2 | 4 | 3 | 3 | 2 | 3 | 1 |
| 1937 | 26 | 1 | 9 | 5 | 2 | 2 | 2 | 5 |
| 1938 | 13 | – | 2 | 1 | 4 | 2 | 1 | 3 |
| 1939 | 12 | – | – | 2 | 3 | 2 | 1 | 4 |
| 1921—1939 | 466 | 58 | 78 | 109 | 69 | 66 | 34 | 52 |

[33] Mauersberg S. Szkolnictwo powszechne dla mniejszości narodowych w Polsce w latach 1918—1939. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1968. S. 106.

ная тэрміналёгія для настаўнікаў, а таксама 10 падручнікаў для вывучэньня беларускай мовы і літаратуры, матэматыкі, агульнай гісторыі ды гісторыі і геаграфіі Беларусі (гл. Дадатак). Рэцэнзаваныя Беларускай школьнай радай падручнікі выдаваліся некалькімі выдавецтвамі. Можна дапусьціць, што пэўную частку выдавецкіх выдаткаў пакрывалі ўлады Сярэдняй Літвы.

Аднак ужо ў 1922 г., пасьля інкарпарацыі Сярэдняй Літвы ў Польшчу, адбылася істотная зьмена дзяржаўнай палітыкі да беларускага школьніцтва. Гэтыя школы ператвараліся ў польска–беларускія (дзьвюхмоўныя) і школы з польскай мовай выкладаньня, у якіх прадугледжвалася магчымасьць вывучэньня беларускай мовы як аднаго з прадметаў.

Паводле дасьледніка гісторыі школьніцтва нацыянальных меншасьцяў Станіслава Маўэрсбэрга, трыццатыя гады былі апошнім этапам існаваньня беларускага школьніцтва ў міжваеннай Польшчы. У 1937/38 навучальным годзе школаў зь беларускай мовай навучаньня не было ўжо ўвогуле, а дзьвюхмоўных заставалася 5. У 44 пачатковых школах з польскай мовай навучаньня 8,2 тыс. вучняў яшчэ вывучалі беларускую мову як прадмет[34].

Ліквідацыйныя тэндэнцыі ахоплівалі таксама сярэдняе школьніцтва. У 1922 г. была закрытая прыватная беларуская гімназія ў Барунах, у 1928 г. — у Радашкавічах, у 1931 г. — у Клецку, у 1932 г. — дзяржаўная дзьвюхмоўная настаўніцкая сэмінарыя ў Вільні і ў 1934 г. — прыватная гімназія ў Наваградку[35]. У Вільні беларуская гімназія існавала да 1932 г., калі яе ператварылі ў філію польскай дзяржаўнай гімназіі імя Юльюша Славацкага[36].

У выніку палітыкі адукацыйных уладаў патрэба школаў у беларускіх падручніках паступова зьмяншалася і ў трыццатых гадох у пачатковым школьніцтве абмяжоўвалася галоўным чынам вывучэньнем беларускай мовы. У прыватных гімназіях, праўда, на гэтай мове выкладаліся і іншыя прадметы, аднак, як было згадана, іх дзейнасьць была кароткачасовай.

Агулам у 1921—1939 г. у Польшчы было выдадзена 52 беларускамоўныя школьныя падручнікі, у тым ліку 27 для вывучэньня беларускай мовы і гісторыі літаратуры (21 — гэта перавыданьне выдадзеных да 1921 г. падручнікаў і 6 новых, распрацаваных у міжваенную пару). Гэта былі:

Астроўскі Р. Беларускі правапіс. 1925; перавыданьне ў 1930;
Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. 1927;
Гарэцкая Л. Родны край (чытанка). 8 перавыданьняў у 1921—1931 г.;
Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Перавыданьні ў 1921 і 1924 г.;
Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. 1923;
Любіч–Маеўскі С. Першы прамень (лемантар). 1929;
Паўловіч С. Пішы самадзейна. 1929;
Смоліч А. Зорка (лемантар). 6 перавыданьняў у 1921—1930 г.;
Станкевіч Я. Беларуская правапісь. 1921;
Станкевіч Я. Новы лемантар. Перавыданьне ў 1931;
Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка. Перавыданьні ў 1922, 1929, 1931 г.

Для навучаньня іншых прадметаў былі выдадзеныя 25 падручнікаў, у тым ліку матэматыкі (арытмэтыкі, альгебры, геамэтрыі) — 9, фізыкі — 4, агульнай гісторыі — 3, гісторыі Беларусі — 2, геаграфіі Беларусі — 2, прыроды — 2, сьпеваў — 2 і псыхалёгіі — 1. У гэтай групе былі выдадзеныя 10 новых падручнікаў, распрацаваных у міжваенную пару

[34] Тамсама, с. 113.
[35] На рахунку польскіх уладаў было таксама закрыцьцё беларускіх гімназіяў у Будславе, Горадні і Гарадку Вялейскага павету. — *А.С.*
[36] Тамсама, с. 106, 110—112; Gomółka K. Тамсама, с. 107.

А. Некандам–Трэпкам (геамэтрыя, фізыка), Р. Астроўскім (арытмэтыка, касмаграфія), А. Грыневічам (сьпевы), М. Ільляшэвічам (псыхалёгія) і С. Рак–Міхайлоўскім (арытмэтыка). Рэшту станавілі пераклады (9), галоўным чынам з расейскай мовы, і перавыданьні падручнікаў, выдадзеных да 1921 г. (6). Амаль усе падручнікі гэтай групы былі выдадзеныя ў дваццатых гадох.

Апроч школьных падручнікаў у 1936—1937 г. выйшлі два лемантары С. Паўловіча, прызначаныя для навучаньня беларускай мовы ўдома. Гэта былі "Першыя зярняткі" (кірыліцай) і "Zasieŭki" (лацінкай). Апошняе выданьне было канфіскаванае віленскімі адміністрацыйнымі ўладамі[37].

Надзвычай сьціпла была прадстаўленая мэтадычная літаратура для настаўнікаў. У разгляданую пару былі выдадзеныя толькі 4 назвы:

Арытмэтычная тэрміналёгія. 1921;
Луцкевіч А. Як вучыць у новай школе. 1923;
Астроўскі Р. Арытмэтычны задачнік. 1929;
Паўловіч С. Мэтадычныя ўвагі да пасобніка "Пішы самадзейна". 1929.

У суме ў групе падручнікаў і пэдагагічнай літаратуры было выдадзена 58 назваў, што складала каля 13% усёй беларускамоўнай выдавецкай прадукцыі міжваеннай пары. Найбольшую іх колькасьць выдалі Беларускае выдавецкае таварыства (23 назвы), выдавецтва Б. Клецкіна (13), Беларуская школьная рада (3) і Беларускае навуковае таварыства (3). Выданьне некалькіх падручнікаў прафінансавалі іх аўтары.

Школьныя падручнікі і мэтадычная літаратура выдаваліся, як правіла, кірылічным алфавітам. Зь цягам часу, аднак, падручнікі для пачатковых школаў пачалі зьяўляцца таксама і лацінкай. Першым зь іх Дзяржаўным выдавецтвам школьных кніжак у Львове ў 1929 г. быў выдадзены лемантар С. Любіч–Маеўскага "Першы прамень", зьяўленьне якога выклікала вострую крытыку беларускіх пэдагогаў і дзяячоў[38]. Неўзабаве, аднак, да выданьня падручнікаў лацінкай прыступілі таксама беларускія выдаўцы. У 1931 г. Беларускае выдавецкае таварыства выдала лацінкай чытанку Л. Гарэцкай "Rodny kraj", граматыку Б. Тарашкевіча і "Nowy lementar" Я. Станкевіча. У 1936 г. лацінкай выйшла чарговае выданьне чытанкі Л. Гарэцкай, а ў 1937 г. буквар С. Паўловіча "Zasieŭki".

**Група II: рэпэртуарная літаратура і сьпеўнікі.** З прычыны абмежаванай магчымасьці фармаваньня нацыянальнай сьвядомасьці праз школу беларускія арганізацыі імкнуліся да разгортваньня культурна–асьветнай працы сярод моладзі і дарослых у сваіх рэгіянальных суполках. Найбольшую ролю ў гэтым абсягу адыгрывала Таварыства беларускай школы (1921—1936), якое дзейнічала пад уплывам левых сілаў, а таксама зьвязаны з хадэцыяй Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (1926—1936). Кароткачасовую актыўнасьць выявіла таксама Таварыства беларускай асьветы (1933—1935) і некаторыя іншыя палянафільскія арганізацыі.

Хоць гэтыя арганізацыі і канкуравалі міжсобку ў ідэалягічнай плашчыні, практычная дзейнасьць іх рэгіянальных суполак была пераважна падобнай. Яна складалася галоўным чынам з прапагандаваньня беларускай школы, барацьбы зь непісьменнасьцю, арганізацыі народных дамоў, бібліятэк, чытаньняў, распаўсюджаньня кніжак і прэсы ды падтрымкі дзейнасьці аматарскіх мастацкіх калектываў.

Паводле Севярына Віславуха, у 1928 г. — найбольш плённым годзе сваёй дзейнасьці

[37] Шлях Моладзі. 1937. № 6/105.
[38] Гл. рэцэнзію Я. Станкевіча // Народ. 1929. № 4; Sulima. Skandaliczny elementarz // Przegląd Wileński. 1929. № 18—19; Паляшук. (Паўловіч С.) Некалькі ўваг аб "беларускім" "Лемантары" Ст. Любіч–Маеўскага. Вільня, 1929.

— Таварыства беларускай школы мела 9 акруговых упраў (Беласток, Глыбокае, Горадня, Косава, Ліда, Мір, Наваградак, Слонім, Вялейка), якім падпарадкоўваліся 385 асяродкаў на тэрыторыі 23 паветаў. У той самы час Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры меў 16 сваіх асяродкаў у 7 паветах[39]. У сваю чаргу, паводле беларускіх аўтараў, у 1928 г. дзейнічала каля 500 асяродкаў ТБШ, а колькасьць асяродкаў БІГіК у 1934—1935 перасягала 80[40]. Не паглыбляючыся ў падрабязныя падлікі, можна прыняць, што ў канцы дваццатых гадоў у паўночна–ўсходніх ваяводзтвах Польшчы дзеяла колькі соцень гэткіх суполак. Аднак яны былі зьліквідаваныя адміністрацыйнымі ўладамі пад рознымі прэтэкстамі.

Імкнучыся задаволіць патрэбы аматарскіх мастацкіх калектываў, якія дзейнічалі ў рамках гэтых суполак, віленскія арганізацыі ў міжваенную пару выдалі 78 назваў рэпэртуарнай літаратуры, у тым ліку 66 п'есаў і т.зв. дэкляматараў (збораў тэкстаў для дэклямацыі) ды 12 сьпеўнікаў. Каля паловы выдадзеных п'есаў (31 пазыцыя) складалі апублікаваныя ўпершыню арыгінальныя творы заходнебеларускіх аўтараў, перадусім Францішка Аляхновіча, Леапольда Родзевіча, Янкі Быліны (кс. Яна Семашкевіча), Язэпа Рушчанца (кс. Язэпа Рэшаця), Казімера Сваяка (кс. Канстанціна Стаповіча), Міхася Машары.

Больш за дзясятак рэпэртуарных пазыцыяў складалі перавыданьні твораў пачатку XX ст., якія ня страцілі актуальнасьці. Сярод іх пераважалі п'есы беларускіх аўтараў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка ды іншых. Былі выдадзеныя таксама дзьве п'есы Элізы Ажэшкі і дзьве п'есы ўкраінскага аўтара Марка Крапіўніцкага.

Значнае месца ў гэтай тэматычнай групе займалі апублікаваныя ўпершыню пераклады альбо пераробкі п'есаў расейскіх ды ўкраінскіх аўтараў і адной літоўскай п'есы. Каля 10 гэтых п'есаў у 1935—1937 г. апрацаваў і выдаў Мікола Шыла (пад псэўданімам М. Шчасны ці крыптанімам М.Ш.) у рамках сваёй "Тэатральнай бібліятэчкі". Аднак гэта былі не звычайныя пераклады, але істотныя пераробкі іншамоўных тэкстаў, якія рабіліся для лепшага іх успрыманьня беларускай публікай.

Выдаўцы рэпэртуарнай літаратуры аддавалі перавагу найперш сацыяльнай тэматыцы, блізкай і зразумелай жыхарам заходнебеларускіх вёсак і мястэчак. Значная частка выдадзеных п'ес на сямейную ці вострасюжэтную праблематыку, тады як творы на гістарычную тэматыку, а таксама прысьвечаныя спэцыфічным праблемам беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, адыгрывалі маргінальную ролю. У гэтай апошняй групе заслугоўваюць увагі выдадзеныя ў 1931 і 1933 г. п'есы Язэпа Рушчанца "Першыя ластаўкі" і "Зорка–ідэя"[41]. Абмежаваная папулярызацыя нацыянальнай ідэі не вынікала, аднак, з такой пазыцыі выдаўцоў, але галоўным чынам адлюстроўвала нэгатыўнае стаўленьне мясцовай адміністрацыі да гэтай праблематыкі. Пра гэта сьведчыць, напрыклад, лёс п'есы Браславіча з пары дзейнасьці Грамады "І нас разбудзілі" (1927), канфіскаванай віленскім стараствам.

Спаміж 12 сьпеўнікаў бальшыню складалі невялікія брашуры, якія ўтрымлівалі тэксты папулярных беларускіх песьняў бяз нот; імі карысталіся аматарскія калектывы і індывідуальныя выканаўцы. Тым часам важнае навуковае значэньне мелі прафэсійна апрацаваныя і выдадзеныя ў 1929 і 1938 г. музыколягам Рыгорам Шырмам зборнікі беларускіх народных песьняў, а таксама сьпеўнікі Альбіна Стаповіча (1935) і Антона Грыневіча (1928).

**Група III: мастацкая літаратура.** У гэтай тэматычнай групе ў міжваенную пару выйшла 109 пазыцыяў, што паказвае, што доля мастацкай літаратуры была найбольшая (23%) ува ўсёй выдавецкай прадукцыі таго часу. Як паказана ў табліцы 2, выданьне гэтай літаратуры ў паасобныя гады значна вагалася: найбольш (ад 11 да 17 пазыцыяў штогод) выдавалася ў 1927—1929 г., аднак пераважна штогод выходзіла колькі пазы-

[39] Wysłouch S. Białorusini na Ziemi Wileńskiej // Wilno i Ziemia Wileńska. T. I. Wilno, 1930. S. 250.
[40] Беларусь. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995. С. 100 і 698.
[41] Трачук Ю. "Першыя ластаўкі" Язэпа Рушчанца // Ніва. 1992. 15 і 29 сакавіка.

цыяў, часам толькі па 1—2 кніжкі, а ў 1925 не зьявілася ніводнай.

Бальшыню (60 назваў) выдадзеных у гэты час твораў мастацкай літаратуры складалі неапублікаваныя дагэтуль арыгінальныя выданьні. За выняткам дзьвюх пазыцыяў аўтараў з савецкай Беларусі (Я. Коласа “Ў палескай глушы” (1923) і У. Дубоўкі “Строма” [1923]), першыя выданьні якіх выйшлі ў Вільні, усе новыя назвы з гэтай групы былі творамі заходнебеларускіх аўтараў. Я падаю іх у алфавітным парадку прозьвішчаў ці псэўданімаў (крыптанімаў) аўтараў:

А. В., Адважны В., паэзія, проза,
“Як Гануля зьбіралася ў Аргентыну”, 1930
“Адам і Анелька”, 1931
“Канёк–Гарбунёк”, 1932
“Беларускія цымбалы”, 1933
“Гануліны клопаты”, 1935
“Казка аб рыбаку і рыбцы”, 1935
“Хлапец”, 1935
Арсеньнева Н., паэзія, “Пад сінім небам”, 1927
Быліна Я., паэзія, “Na pokuci”, 1934
Дзядзька Пранук, проза, “Стася”, 1922
Дзяргач, проза, “Тыпы Палесься”, 1924
Друцкі–Падбярэскі Б., проза,
“Пернік”, 1927
“Байкі, гумар, сатыра”, 1928
Васілеўскі Я., паэзія, “Скарб”, 1927
Васілёк М., паэзія,
“Шум баравы”, 1929
“Зь сялянскіх ніў”, 1937
Грынкевіч С., проза,
“Арлянё”, 1927
“Царква, Помста, Вязьніца”, 1928
Грышкевіч Ф., паэзія, “Веснавыя мэлёдыі”, 1927
Жылка У., паэзія,
“Уяўленьне”, 1923
“На ростані”, 1924
Задума П., проза, “Купальле”, 1930
Івэрс А., паэзія, “Песьні на загонах”, 1939
Ільляшэвіч Х., паэзія,
“Веснапесьні”, 1929
“Зорным шляхам”, 1932
“Захварбаваныя вершы”, 1936
Ініцкі У., паэзія, проза,
“Сон Гаўрылы і розныя вершы”, 1928
“Клім бабаю і іншыя жарты”, 1929
“Апавяданьні”, 1934
Казлоўшчык У., паэзія,
“Плач беларускай старонкі...”, 1930
“Путы каханьня”, 1932
“Шляхам змаганьня”, 1935
Машара М., паэзія,
“Малюнкі”, 1928

“Сьмерць Кастуся Каліноўскага”, 1934
“На сонечны бераг”, 1934
“Вясельле”, 1934
“На прадвесьні”, 1935
“Мамчына горка”, 1936
“З–пад стрэх саламяных”, 1937
Нарцызаў Я., проза, “Пабрацімцы і вялікая шышка”, 1923
Родзевіч Л., паэзія, “Беларусь”, 1922
Сваяк К., паэзія, проза,
“Мая ліра”, 1924
“Купальле”, 1930
Станкевіч С., паэзія,
“Сьмех ня грэх”, 1926
“З майго аконца”, 1928
Танк М., паэзія,
“На этапах”, 1936
“Журавінавы цьвет”, 1937
“Нарач”, 1937
“Пад мачтай”, 1938
Хмара С., паэзія, “Жураўліным шляхам”, 1939

Сьпіс індывідуальных твораў дапаўняе анталёгія заходнебеларускай мастацкай літаратуры “Рунь веснаходу” (1928) і колькі фальклёрыстычных зборнікаў, апрацаваных Янам Пачопкам (1927) і Янам Станкевічам (1937 і 1939).

Віленскія выдаўцы часта выкарыстоўвалі беларускую клясыку пачатку XX ст. на розную праблематыку. Агулам у міжваенную пару былі перавыдадзеныя 27 твораў мастацкай літаратуры, сярод якіх найбольшая перавага аддавалася аповесьцям і апавяданьням Якуба Коласа (Тараса Гушчы). У 1921—1933 г. зьявілася 11 назваў гэтага аўтара, у тым ліку “Новая зямля” (двойчы ў 1928/1929 і 1931) і “Сымон–музыка” (1928), а таксама аповесьць “У глыбі Палесься” (1931).

Творы Францішка Багушэвіча перавыдаваліся пяць разоў, пры гэтым ягоная “Дудка беларуская” выдавалася чатыры разы (1921, 1927 і два выданьні ў 1930 г.). Двойчы перавыдаваўся “Шляхам жыцьця” Янкі Купалы (1923 і 1935), адзін раз “Вянок” Максіма Багдановіча (1927), а таксама творы Альбэрта Паўловіча (1921 і 1929), Ядвігіна Ш. (1923 і 1927), Андрэя Зязюлі (1931) і ананімная паэма XIX ст. “Тарас на Парнасе” (1923 і 1929).

Найменшую частку беларускіх выданьняў з абсягу мастацкай літаратуры (22 назвы) складалі пераклады іншамоўных твораў. Пераважалі (16 назваў) пераклады з расейскай мовы, сярод іх 3 творы Віталя Біянкі, (1931, 1933), 1 — Аляксандра Блока (1926), 1 — Мікалая Гогаля (1929), 2 — Уладзімера Караленкі (1928), 1 — Аляксандра Купрына (1923), 2 — Міхаіла Лермантава (1924, 1926) і 3 — Лява Талстоя (1928, 1929).

Выключна сьціплым быў перакладны даробак зь іншых літаратур (6 назваў). З польскай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову былі выдадзеныя толькі “Бартэк пераможнік” Генрыка Сянкевіча (1926) і навэля Уладзіслава Рэйманта пра абарону зямлі (1929). Астатнія чатыры пазыцыі (без пазначэньня, зь якой мовы перакладзеныя) — гэта “Прынц і жабрак” Марка Твэна (1928), “Рабінзон Круза” Даніэля Дэфо (1929), апавяданьні Альфонса Дадэ (1927) і “Ірляндзкія народныя казкі” Макмануса (1923).

**Група IV: рэлігійная літаратура.** У 1921—1939 г. усяго выйшла 69 кніжак на рэлігійную тэматыку: пераклады Сьвятога пісаньня, малітаўнікі і іншыя літургічныя тэксты, публіцыстычныя творы і падручнікі для навучаньня рэлігіі ў школе і дома. Апроч

чыста канфэсійных задачаў, мэтай гэтай літаратуры было павелічэньне ролі беларускай мовы ў рэлігійным жыцьці і процідзеяньне гістарычна абумоўленым палянізацыйным тэндэнцыям — у Рыма–каталіцкай царкве і русіфікацыйным — у Праваслаўнай царкве.

Амаль 2/3 усёй выдадзенай у тую пару рэлігійнай літаратуры складалі кніжкі каталіцкай арыентацыі (44 назвы)[42]. Гэтаму спрыялі як выдавецкія традыцыі беларускіх каталіцкіх дзяячоў пачатку XX ст.[43], пасьлядоўная дзейнасьць хадэцкіх выдаўцоў у міжваенную пару, так і інтэлектуальныя магчымасьці зацікаўленых аўтараў, сярод якіх, апроч некалькіх сьвецкіх асобаў, было 13 каталіцкіх ксяндзоў[44].

15 пазыцыяў складалі тэксты, прызначаныя для выкарыстаньня ў касьцельных набажэнствах, у тым ліку чытаньні і эвангельлі ў перакладзе Ільдэфонса Бобіча (1921, 1922), Адама Станкевіча (1938), Вінцэнта Гадлеўскага (1939), малітаўнікі Канстанціна Стаповіча “Hołas Dušy” (1926, 1934) і Язэпа Германовіча “Božaja Chvała” (1932), катэхізіс Язэпа Рэшаця (1927) і Яна Семашкевіча (часткова пад псэўданімам Янкі Быліны) “Ružaniec” (1928), “Pieśni–žalby” (1929), “Daroha Kryža” (1930), а таксама “Officium Najśviaciejšaj Dzievy Maryji” (гадзіны малітваў), перадрукаваныя з малітаўніку “Hołas Dušy” (1935).

Апошняй пазыцыяй з гэтай сэрыі была выдадзеная ў 1926 г. “Biełaruskaj Krynicaj” “Kantyčka”[45]. Яна выйшла без дазволу царкоўных уладаў, у выніку чаго яе нават тэарэтычна не маглі дапусьціць да ўжытку ў касьцельных набажэнствах і, мабыць, адклікалі з продажу, а ксяндзу Баляславу Пачопку, якому прыпісвалі ўдзел у падрыхтоўцы “Kantyčki”, давялося публічна гэта аспрэчыць[46].

Найбольшую колькасьць пазыцыяў рэлігійнай літаратуры каталіцкай арыентацыі складалі публіцыстычныя і навукова–папулярныя творы (25 назваў). Тэалягічным пытаньням былі прысьвечаныя працы Язэпа Рэшаця (1928, 1929), Пятра Татарыновіча (1928), Фабіяна Абрантовіча (1928, 1929)*, а таксама Тамаша Кемпійскага[47] ў перакладзе Станіслава Грынкевіча (1934). Да гэтай групы назваў можна залічыць падрыхтаваныя Вінцэнтам Гадлеўскім падручнікі гісторыі Старога і Новага запавету (1930, 1933). Апроч таго, у колькіх працах прыводзіліся розныя падзеі з жыцьця Царквы (К. Найловіч, 1931, 1933, П. Татарыновіч, 1934, А. Станкевіч, 1938), а таксама ўспаміны аб беларускай пілігрымцы да віленскай Кальварыі (1935, 1938).

Жыцьцё сям'і і грамадзтва ў сьвятле вучэньня Царквы разглядалі Язэп Германовіч (1928, 1929), Дамінік Аніська (1933, 1935), Ян Тарасэвіч (1928) і Антон Падзява (1939). Прапагандзе ўжываньня беларускай мовы ў царкоўным жыцьці былі прысьвечаныя, у ліку іншых, працы Даменіка Аніські (1934), Яна Тарасэвіча (1935), Адама Станкевіча (1929). Сьпіс каталіцкай літаратуры дапаўняюць пераклады кніжкі “Przypowieści” Я. Ёргенсэна (1926) і Ф. Аманкоўскай “Прадка пад крыжам” (1939).

Трэба заўважыць, што ўся пералічаная літаратура каталіцкай арыентацыі пасьлядоўна выдавалася лацінскім алфавітам.

---

[42] Гэтую лічбу можна разглядаць як мінімальную, бо каталіцкія ідэалягічныя тэндэнцыі чырвонай ніткай праходзілі ў многіх выдадзеных пэрыёдыкамі “Biełaruskaja Krynica” і “Chryścjanskaja Dumka” творах, якія ў гэтай працы былі залічаныя да рэпэртуарнай і мастацкай літаратуры.

[43] Параўн.: Głogowska H. Тамсама.

[44] Фабіян Абрантовіч, Ільдэфонс Бобіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Язэп Германовіч, Казімер Найловіч, Баляслаў Пачопка, Антон Падзява, Язэп Рэшаць, Ян Семашкевіч, Адам Станкевіч, Канстанцін Стаповіч, Ян Тарасэвіч і Пётар Татарыновіч.

[45] Журня Ф. Тамсама. Głogowska H. Тамсама.

[46] Przegląd Wileński. 1926. № 15; Biełaruskaja Krynica. 1926. № 30.

* Абрантовіч Фабіян (1884—1946) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[47] Тамаш Кемпійскі нарадзіўся ў г. Кемптэне ў Нідэрляндах. Тут падаецца пераклад лацінізаванага назову гораду. — *А.С.*

Асобнае месца ў каталіцкай публіцыстыцы займала прапаганда нэаўніі. З прычыны крытычнага стаўленьня да яе ксяндза Адама Станкевіча яе галоўным прапагандыстам быў асяродак айцоў езуітаў у Альбярціне каля Слоніма і Беларускі рэлігійна–грамадзкі саюз, які дзейнічаў пад яго апекай. Аднак, апроч часопісаў, календара і ўлётак, нэаўнійныя дзячы выдалі ўсяго тры брашуры з прапагандай царкоўнай уніі (Язэп Германовіч, 1932, Баляслаў Пачопка, 1932, і калектыўная манаграфія “Рэлігійнае жыцьцё на Беларусі”, 1932). Напэўна, з прычыны існуючых рознагалосьсяў наконт нэаўніі надрукаваны кірыліцай, а значыць, прызначаны галоўным чынам для праваслаўных, другі катэхізіс ксяндза Язэпа Рэшаця — вялікага прыхільніка царкоўнай уніі — пад назвай “Асновы хрысьціянскай веры для беларускага народу” (1927) быў выдадзены пад крыптанімам І.Р., імаверна, віленскай архібіскупскай курыяй альбо езуітамі з Альбярціна. Беларуская хадэцкая прэса пра яго не пісала.

Рэлігійнай літаратуры праваслаўнай арыентацыі выйшла 6 кніжак, т. б. у параўнаньні з каталіцкай літаратурай яна выглядала вельмі сьціпла. З адным выняткам — яе аўтарам быў Сяргей Паўловіч, які выдаў: “Сьвяшчэнная гісторыя Старога Завету” (1926), “Беларуска–славянскі лемантар (буквар) і першая навука Закону Божага” (1933), “Праваслаўны малітваслоў на царкоўна–славянскай і беларускай мове” (1935)[48], “Першая навука Закону Божага зь беларуска–славянскім букваром”[49] (1936) і “Сьвяшчэнная гісторыя Новага Завету” (1936). Чатыры апошнія пазыцыі былі надрукаваныя ў сынадальнай друкарні ў Варшаве. Шостай пазыцыяй была невялікая ананімная брашура “Сьвятыя віленскія мучанікі Антон, Іван і Астап — патроны Беларусі” — перадрук з праваслаўнага календара на 1927 г.

На думку Алены Глагоўскай, прычына гэткага сьціплага даробку беларускамоўнай праваслаўнай літаратуры “палягала ў мізэрнай зацікаўленасьці царкоўнай герархіі ў Польшчы беларусізацыяй Царквы”[50]. Аднак падаецца, што гэта была не найважнейшая прычына. На тое паказвае факт выданьня малітаўніка і трох падручнікаў С. Паўловіча Праваслаўнай мітраполіяй у Варшаве з ухвалы мітрапаліта Дзяніса, і гэта ў трыццатых гадох, калі адукацыйныя ўлады ўсё мацней настойвалі на тым, каб навучаньне праваслаўнай рэлігіі ў пачатковых школах вялося на польскай мове. Мабыць, большае значэньне мела нядольнасьць ці нежаданьне пераважнай часткі праваслаўнага духавенства паслугоўвацца беларускай мовай. Не выпадкова аўтарам усіх падручнікаў і нават малітаўніка была сьвецкая асоба — Сяргей Паўловіч.

Большую актыўнасьць у гэтым полі выяўлялі пратэстанцкія выдаўцы (мэтадысты і баптысты), зацікаўленыя ў пашырэньні сваіх ідэяў сярод беларускага насельніцтва паўночна–ўсходніх ваяводзтваў Польшчы[51]. У выніку іх дзейнасьці агулам выйшла 19 кніжак.

У сярэдзіне дваццатых гадоў намаганьнямі місіі мэтадыстаў у Варшаве, а ў трыццатых гадох — амэрыканскай фірмы “Southern Trade” былі выдадзеныя “Галоўныя асновы мэтадызму” (1925), “Служба Божая” (1925), “Курс нядзельнае школы” (1930) і чатыры сьпеўнікі (1925 кірыліцай і лацінкай, 1929, 1930, 1936). Амаль адначасова Выдавец-

[48] Малітаўнік “Праваслаўны малітваслоў на царкоўна–славянскай і беларускай мове” (1935) выйшаў ананімна. Пра тое, што яго аўтарам быў С. Паўловіч, сьведчыць інфармацыя, зьмешчаная на вокладцы яго падручніка “Першая навука Закону Божага зь беларуска–славянскім букваром” (1936).

[49] На вокладцы гэтага падручніка падаецца, што гэта было “выданьне другое, папраўленае і дапоўненае”. Першым выданьнем быў падручнік Паўловіча з падобнай назвай, які выйшаў у 1933 г.

[50] Głogowska H. Тамсама.

[51] Łatyszonek O. Białoruski ruch narodowy a protestantyzm w II Rzeczypospolitej // Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno–wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939—1941. Warszawa, 1995. S. 33—40.

кае Таварыства баптыстаў “Компас” у Лодзі выдала чатыры эвангельлі (1926—1928) і брашуры: “Прыпавесьць пра блуднага сына” (1927), “Нэўтральнага месца няма” (1927) і “Загінуў ці спасёны” (1932). Апроч таго, у Вільні выйшлі выбраныя вершы Міхаіла “Хрыстовы золак” (1927) баптысцкай арыентацыі.

Значнай падзеяй у галіне рэлігійнай літаратуры было выданьне ў 1931 г. Брытанскім і замежным біблійным таварыствам першага поўнага перакладу Новага запавету на беларускую мову “Новы запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста і Псальмы”. Працы над перакладам пачаліся ў сярэдзіне дваццатых гадоў з удзелам каталіцкіх, праваслаўных і пратэстанцкіх перакладчыкаў, галоўным чынам пастара Лукаша Дзекуць–Малея, Антона Луцкевіча і сьвятара Аляксандра Каўша. Пры гэтым выкарыстоўваўся пераклад чатырох эвангельляў, выдадзены “Компасам” у Лодзі. Новы запавет быў надрукаваны ў Лодзі, мабыць, у друкарні выдавецтва “Компас”, аднак на яго тытульнай старонцы месцам выданьня называюцца Хельсынкі, дзе месьціўся аддзел Усходняй Эўропы Брытанскага і замежнага біблійнага таварыства[52]. Па вайне кніжка двойчы перавыдавалася — у 1948 і 1991 г.

**Група V: грамадзка–палітычная літаратура.** Гэтая літаратура мела на мэце фармаваньне як нацыянальнай сьвядомасьці, так і ясных палітычных пазыцыяў беларускага народу. З пункту гледжаньня ідэйнай скіраванасьці можна вылучыць тры яе катэгорыі:

1. гісторыя беларускага нацыянальнага руху, яго ідэалягічныя асновы і стаўленьне да сучасных пытаньняў;
2. сацыяльная праблематыка, разгледжаная з марксісцкіх пазыцыяў;
3. антыкамуністычная і антысавецкая літаратура.

Агулам грамадзка–палітычнай літаратуры выйшла 66 назваў, што толькі нязначна саступае паводле колькасьці рэлігійнай літаратуры. Найбольшая колькасьць выданьняў належала да першай катэгорыі, прызначанай для нацыянальнай адукацыі грамадзтва (37 назваў). У яе рамках вылучаліся працы Адама Станкевіча, у прыватнасьці, “Кастусь Каліноўскі”, “«Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасьці Беларусі” (1933), “Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня” (1935), “Беларускі хрысьціянскі рух” (1939) і колькі яго брашур, прысьвечаных постацям пачынальнікаў нацыянальнага адраджэньня. Гэтая праблематыка чырвонай ніткай праходзіла ў сэрыі ўспамінаў нацыянальных дзяячоў: Ядвігіна Ш. (1921), Казімера Сваяка (1932) і Антона Луцкевіча (1928). Наіўнасьць вядучых дзяячоў Грамады, якія эміграваліў СССР, трапна ацаніў Фабіян Акінчыц (1931, 1933). Апроч таго, была выдадзеная (1923) ёмістая стэнаграма працэсу 45 беларусаў у Беластоку, неўзабаве сканфіскаваная, і праца А. Канчара пра грамадзкія, нацыянальныя і канфэсійныя антаганізмы ў Беларусі (1921).

Мэтам адукацыі нацыі служыла таксама сэрыя брашур, у якіх разглядалася старавечная гісторыя Беларусі, у тым ліку Сяргея Сахарава “Полацкі князь Усяслаў — беларускі народны асілак” (1939), Мікалая Ільляшэвіча “Расейская палітыка на землях былога Беларуска–літоўскага гаспадарства за панаваньня Кацярыны II і Паўлы I” (1933), Міколы Шкялёнка “Ў 300–я ўгодкі сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі” (1933), Адама Станкевіча “Доктар Францішак Скарына першы друкар беларускі” (1925) і гэтага ж аўтара “Вітаўт Вялікі і беларусы” (1930) і “Беларуская мова ў школах Беларусі XVI—XVIII ст.” (1928).

У спэцыфічных варунках Беларусі, на абшары якой вякамі сутыкаліся ўплывы Ўсходу і Захаду, якія ўскладнялі гарманічнае ўзаемадзеяньне палітычных колаў, вызначэньне прынцыпаў нацыянальнага руху мела першараднае значэньне. Гэтаму пытаньню, апроч шматлікіх публікацыяў у прэсе, былі прысьвечаныя працы І. Абдзіраловіча (1921),

[52] Picarda G. Ibidem.

С. Грынкевіча (1927), А. Стаповіча (1929), В. Гадлеўскага пад псэўданімам *Ваг* (1931), А. Клімовіча (1931), Ф. Акінчыца (1936), часта яно закраналася ў творах А. Станкевіча.

Стаўленьне беларускіх дзяячоў да тагачаснай палітыкі польскай дзяржавы да гэтай нацыянальнай меншасьці было адлюстраванае сярод іншага ў публікацыях У. Самойлы — пад псэўданімам Суліма (1923, 1924), у ананімнай брашуры "З усіх бакоў польскае дзяржаўнасьці" (1926), у брашурах аб праблемах самакіраваньня (1929, 1938), а таксама ў публікаваных выступах у Сойме беларускіх дэпутатаў Б. Тарашкевіча (1923), Ф. Ярэміча (1931) і іншых (1924, 1926).

13 пазыцыяў выдала альбо спансаравала камуністычная партыя, аддаючы значна больш увагі іншым формам масавай агітацыі, такім як прэса і ўлёткі. Гэтак, выдавецтва Грамады ў 1926 г. апублікавала тры брашуры — С. Баха "Цар–голад" і Э. Бэлямі "Казка аб вадзе" (кірыліцай і лацінкай). Вынікам выдавецкай дзейнасьці Рабоча–сялянскага пасольскага клюбу "Змаганьне" былі шэсьць кніжак — працы К. Маркса (1929, 1930), Ф. Энгельса (1929), Г. Пляханава (1929), І. Сталіна (1929) і І. Тагабочнага "Змагары за ідэю" (1929). Апроч таго, КПП выдала на беларускай мове "Рэзалюцыі III партыйнай канфэрэнцыі" (1922), а КПЗБ — дзьве публікацыі: А. Віленчука "Супраць расправы акупантаў над Б. Тарашкевічам" (1933) і А. Гарадоцкага "Як Беларуская Хадэцыя гандлюе крывёю рабочых і сялян" (1934).

Дзяржаўныя ўлады намагаліся супрацьстаяць уплывам камуністычнай партыі, спансаруючы выданьне "Цэнтрасаюзам" трох брашур А. Русаковіча: "У краіне прымусу", "Ад волі да прыгону" і "Што такое «калгасы»" (усё ў 1932 г.). Тым самым мэтам служылі пяць брашур, выдадзеных вялікімі накладамі ў рамках т.зв. Беларускай народнай бібліятэкі — С. Баркоўскага "«Камсамол» і ягоныя мэты" (1933), Я. Альхоўскага "Як жывецца сялянству пад камуністычнай уладай" (1932), К. Навіцкага "Што робіць урад у барацьбе з крызісам" (1933) і "Як палепшыць жыцьцё сялянства" (1934). Агляд пісьменства гэтага кірунку завяршаюць кніжкі А. Аера "Босыя на лёдзе" (1938) і Ф. Аляхновіча "Ў капцюрох ГПУ" (1937) — перакладзены на некалькі моў нарыс аб зьняволеньні яе аўтара ў салавецкіх лягерох.

**Група VI: мовазнаўства, асьвета і культура.** Нешматлікія беларусазнаўчыя працы, апублікаваныя ў міжваенную пару пад эгідай навуковых ўстановаў, выдаваліся на польскай мове[53].

На беларускай жа мове зьяўляліся працы розных аўтараў — навуковых работнікаў, настаўнікаў, сьвятароў і іншых прадстаўнікоў групаў інтэлігенцыі — як навуковага, так і навукова–папулярнага характару, а таксама дапаможнікі (слоўнікі). З прычыны ўзаемнай палітычнай антыпатыі паміж рознымі арганізацыямі толькі частка аўтараў трымалася поглядаў, якія пашырала Беларускае навуковае таварыства, выдавецкая дзейнасьць якога ў прынцыпе абмежавалася выданьнем двух спансараваных уладамі асьветніцкіх выданьняў[54].

У галіне мовазнаўства быў перавыдадзены расейска–беларускі слоўнік М. і Г. Гарэцкіх (1921), апроч таго былі выдадзеныя два новыя: З. Верас. Беларуска–польска–лацінскі батанічны слоўнік (1924); Б. Друцкі–Падбярэскі. Падручны беларуска–польскі слоўнік (1929). Выйшлі таксама шэсьць лінгвістычных працаў Я. Станкевіча (1921, 1931, 1935, 1936, 1937, 1939), выдадзеных часткова на кошт аўтара і пры частковай фінансавай падтрымцы Таварыства прыяцеляў беларусаведы, якое дзеяла пры Віленскім унівэрсытэце, і Беларускага студэнцкага саюзу. Адна праца, прысьвечаная зьбіраньню тэрмі-

[53] Iljaszewicz T. Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie. Wilno, 1938; Łuckiewicz A. Narodowolcy Białorusini i ich organ "Homon". Lwów, 1935; Stankiewicz S. Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej. Wilno, 1936 і іншыя.

[54] Гадавік Беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1933; Запісы Беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1938.

налягічнага матэрыялу на беларускай мове, была передрукаваная з ранейшага менскага выданьня (1926).

У галіне літаратуразнаўства выйшла некалькі працаў А. Луцкевіча (1921 — дзьве, 1925, 1932, 1933), а таксама яго ж большае дасьледаваньне “Адбітае жыцьцё”[55] (1929). Апроч таго выйшла праца А. Станкевіча пра творчасьць Францішка Багушэвіча (1930), Х. Ільляшэвіча пра літаратурную дзейнасьць Ядвігіна Ш. (1933) і М. Мілючанкі пра паэзію Цёткі (1936). Ян Станкевіч апублікаваў вынікі сваіх дасьледаваньняў літаратуры беларускіх мусульманаў, напісанай арабскай графікай (1933), і сярэднявечных беларускіх хронікаў (1937). Да літаратуразнаўчых працаў належыць таксама падрыхтаваная Мар'янам Пецюкевічам інструкцыя па зьбіраньні фальклёру (1933) і пераклад кніжкі М. Гнатышака пра сучасную нямецкую прозу (1928).

Праблемам школьніцтва і арганізацыі пазашкольнай асьветы былі прысьвечаныя брашуры С. Паўловіча (1928, 1929), С. Грынкевіча (1936) і К. Езавітава (1923), а гісторыі беларускага тэатру і дзейнасьці аматарскіх тэатраў — працы Ф. Аляхновіча (1924) і С. Грынкевіча (1927). Тэмай некалькіх невялікіх брашур былі розныя аспэкты культурнай дзейнасьці (А. Луцкевіч пісаў пра беларускі музэй у Вільні, 1933, А. Станкевіч — пра сьпевака Міхася Забэйду–Суміцкага, 1938, а Суліма — пра беларускую душу, 1924). Выйшла таксама калектыўная манаграфія “Заходняя Беларусь”, прысьвечаная літаратуры, мастацтву і беларускай грамадзкай думцы (1924)[56].

**Група VII: астатняя літаратура.** У гэтай групе, якая ахоплівае 52 пазыцыі, найбольшую долю складаюць кніжкі на эканамічную тэматыку (26 назваў). Гэтая катэгорыя складаецца з брашур, якія папулярызавалі ідэю каапэрацыі, у прыватнасьці — С. Чыжэўскага (1921, 3 пазыцыі), А. Васілені (1928, 1929), А. Клімовіча (1932) і А. Більдзюкевіча (1926), а таксама з больш за дзясятак брашур, прысьвечаных папулярызацыі сельскагаспадарчых ведаў.

Праблемы аховы здароўя, гігіены і барацьбы з алькагалізмам разглядаліся ў 9 папулярных дапаможніках, падрыхтаваных лекарамі Ядвігай і Станіславам Грынкевічамі (1935, 1938, 1939), М. Голуб–Бучынскай (1926, 1932), Антонам Краскоўскім (1922) і Браніславам Туронкам (1928). Дзьве працы тычыліся праблемаў фізычнага выхаваньня (У. Казлоўшчык, 1927, 1928).

* * *

Сярод аналізаваных 466 беларускамоўных кніжак, выдадзеных у 1921—1939 г., пераважную колькасьць (300 назваў, ці 64%) складалі арыгінальныя творы мясцовых аўтараў, выдадзеныя ўпершыню. Рэшта становіць перавыданьні кніжак, выдадзеных да 1921 г. (81 назва), і пераклады зь іншых моў, галоўным чынам з расейскай (85 назваў).

Арыгінальная літаратура пераважала ўва ўсе гады міжваеннай пары, і яе доля нават выяўляла тэндэнцыю да росту: у 1921—1930 г. яна складала 59%, а ў трыццатых гадох вырасла да 73%. Гэтая доля была рознай у паасобных тэматычных групах — ніжэйшай за сярэднюю яна была ў галіне школьных падручнікаў, рэпэртуарнай і мастацкай літаратуры, вышэйшай за сярэднюю — у групе рэлігійнай і грамадзка–палітычнай літаратуры.

## Аб'ём і наклады

З прычыны фінансавых цяжкасьцяў для бальшыні беларускіх выдаўцоў мінімізацыя выдаткаў мела асаблівае значэньне і ў шматлікіх выпадках абумоўлівала рашэньне аб

[55] “Адбітае жыцьцё” — зборнік артыкулаў і лекцыяў А. Луцкевіча. — *А.С.*
[56] Насамрэч, зборнік “Заходняя Беларусь” выйшаў у канцы 1923 г. — *А.С.*

выданьні кніжкі. Часта выдаваліся адносна невялікія тэксты, якія папярэдне друкаваліся ў часопісах і дазвалялі паўторна выкарыстоўваць друкарскі набор. Гэта ўмагчымляла выданьне тэксту ў форме кніжкі як адбіткі.

У вялікай меры такія рашэньні ўплывалі на аб'ём. З аналізу пададзенага ў дадатку каталёгу вынікае, што кніжак аб'ёмам ня больш за 64 старонкі ў міжваенную пару было выдадзена 302, што складала 65% усёй тагачаснай выдавецкай прадукцыі. Згодна з польскім паліграфічным стандартам, іх можна было б залічыць да брашур. Адначасна было выдадзена 164 кніжкі аб'ёмам больш за 64 старонкі (35% усёй прадукцыі).

Гэтыя падлікі можна лічыць прыблізнымі і ў пэўнай ступені ўмоўнымі, бо яны ня ўлічваюць фармату. У многіх выпадках ён быў невялікі, а яго пералічэньне на параўнальны фармат (напрыклад, А5) зьмяніла б гэтыя прапорцыі, павялічваючы долю брашур і памяншаючы долю кніжак.

Наклады (колькасьць асобнікаў) выдадзеных кніжак адлюстроўвалі як фінансавыя магчымасьці выдаўцоў, так і іх ацэнку патэнцыйнага чытацкага попыту ці мэтазгоднасьці прапагандаваньня пэўных ідэйных каштоўнасьцяў, асабліва рэлігійных і грамадзка–палітычных. Як было ўстаноўлена падчас дасьледаваньня, пачынаючы ад 1927 г., на абавязковых асобніках, што перадаваліся Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве віленскім гарадзкім стараствам як установай, якая кантралявала выдавецкую дзейнасьць, разьмяшчаўся адмысловы штэмпэль (часам запіс ад рукі), на якім у ліку іншага падавалася колькасьць надрукаваных асобнікаў. З прычыны таго, што друкарні, як правіла, не падавалі гэтых зьвестак на вокладках кніжак, згаданыя зьвесткі віленскага гарадзкога старасства і аналягічных установаў у іншых гарадох Польшчы — адзіная крыніца вызначэньня накладу пэўнай пазыцыі. Гэтым спосабам былі вызначаныя наклады 200 кніжак, г.зн. больш як 60% усяго іх выданьня ў 1927—1939 г.; аднак такія зьвесткі адсутнічаюць для папярэдніх гадоў (1921—1926), за выняткам трох назваў, выдадзеных Грамадой. Атрыманы матэрыял, хоць ён і няпоўны, досыць рэпрэзэнтатыўны для вызначэньня заканамернасьцяў ува ўсёй выдавецкай дзейнасьці.

Як паказана ў табліцы 3, з 200 кніжак накладам да 500 асобнікаў былі выдадзеныя 50 назваў (25%), ад 501 да 1000 — 95 назваў (47,5%), а больш за 1000 асобнікаў — 55 кніжак (27,5%). Дзеля таго, што колькасьць кніжак, выдадзеных найменшым накладам (да 500 асобнікаў), нязначна адрозьнівалася ад колькасьці кніжак, выдадзеных найбольшым накладам (больш за 1000 асобнікаў), можна прыняць за вельмі праўдападобны і тыповы ў заходнебеларускіх варунках наклад кніжкі трохі меншы за 1000 экзэмпляраў.

Такім чынам, гэткі наклад быў вельмі нізкім ня толькі ў супастаўленьні з колькась-

**Табліца 3**. Наклады кніжак у 1927—1939 г. паводле тэматычных групаў[a]

| Тэматычная група | да 500 асобнікаў | 501—1000 асобнікаў | больш за 1000 асобнікаў | Разам |
|---|---|---|---|---|
| I | — | 8 | 6 | 14 |
| II | 7 | 12 | 6 | 25 |
| III | 16 | 36 | 8 | 60 |
| IV | 8 | 12 | 9 | 29 |
| V | 7 | 12 | 21 | 40 |
| VI | 9 | 4 | 1 | 14 |
| VII | 3 | 11 | 4 | 18 |
| **Разам** | 50 | 95 | 55 | 200 |

[a] Улучна з трыма брашурамі, выдадзенымі ў 1926 г. Грамадой.

цю беларускага насельніцтва ў міжваеннай Польшчы[57], але і ў параўнаньні з накладамі кніжак, выдадзеных перад першай сусьветнай вайной. Паводле падлікаў С. Александровіча, сярэдні наклад кніжак, выдадзеных у 1913—1915 г. віленскім Беларускім выдавецкім таварыствам, складаў 3180 асобнікаў, г.зн. быў у тры разы большым, чым у міжваенную пару[58]. Аднак гэтае параўнаньне не зусім карэктнае, бо кніжкі гэтага выдавецтва прызначаліся для чытачоў з усёй Беларусі, а ня толькі для яе заходняй часткі, якая па першай сусьветнай вайне апынулася ў межах польскай дзяржавы. Аднак гэта не мяняе агульнай ацэнкі рэгрэсу ў гэтай галіне, на што паказвае й той факт, што кніжкі, выдадзеныя ў 1913—1915 г. віленскай каталіцкай газэтай "Беларус", г.зн. прызначаныя галоўным чынам для насельніцтва паўночна–заходняй Беларусі, у сярэднім выходзілі накладам 2440 асобнікаў, г.зн. у два разы большым накладам, чым у 1921—1939[59].

Пры такім стане рэчаў заслугоўваюць увагі кніжкі, якія мелі вышэйшыя за сярэдні наклады (больш за 1000 асобнікаў). У міжваенную пару іх выйшла 55, з чаго значную частку складала грамадзка–палітычная літаратура (23 назвы): галоўным чынам, творы клясыкаў марксізму, выдадзеныя Пасольскім клюбам "Змаганьне" (па 2000 асобнікаў), выдадзеныя Грамадой брашуры С. Баха "Цар–голад" (20 000 асобнікаў) і Э. Бэлямі "Казка аб вадзе" (кірыліцай і лацінкай, 10 000 асобнікаў)[60], а таксама спансаваныя ўладамі антыкамуністычныя брашуры Ф. Акінчыца "Чаму гэта так сталася" (10 000 асобнікаў), А. Русаковіча (тры па 4000 асобнікаў), А. Бабраўскага і іншых аўтараў у рамках "Беларускай Народнай Бібліятэкі" (ад 2000 да 6000 асобнікаў) і, мабыць, успаміны Ф. Аляхновіча з савецкіх лягероў (2000 асобнікаў).

Аднак рэкордны наклад (25 000 асобнікаў) належыць выдадзенаму Брытанскім і замежным біблійным таварыствам перакладу "Новага запавету"[61]. Адносна вялікімі накладамі выходзілі кніжкі, выдадзеныя Праваслаўнай мітраполіяй у Варшаве. Так, напрыклад, падручнік Сяргея Паўловіча "Беларуска–славянскі лемантар (буквар) і першая навука Закону Божага" (1933), а таксама "Праваслаўны малітваслоў" (1935) былі выдадзеныя накладам 2000 асобнікаў, а наклад апошняй пазыцыі Паўловіча — "Сьвяшчэнная гісторыя Новага Завету" (1936) — сягнуў 3000 асобнікаў. Такім жа накладам у 1934 г. быў выдадзены каталіцкі малітаўнік Канстанціна Стаповіча "Hołas Dušy".

Мяркуючы па няпоўных дадзеных, наклады пратэстанцкай літаратуры (мэтадыстаў і баптыстаў) былі ніжэйшыя, што, напэўна, было зьвязана з тагачаснай невялікай колькасьцю чальцоў гэтых рэлігійных супольнасьцяў. У некалькіх выпадках яны не перасягалі 500 асобнікаў, да выняткаў належаў мэтадысцкі сьпеўнік "Божая Ліра" (1930), выдадзены накладам 1500 асобнікаў.

Наклады выданьняў мастацкай літаратуры рэдка перасягалі сярэдні ўзровень, г.зн. 1000 асобнікаў. Гэта датычыла нават твораў найбольш вядомых клясыкаў беларускай літаратуры. Для прыкладу, першая частка паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" была выдадзеная ў 1928 г. накладам 2000 асобнікаў, аднак у выніку ніжэйшага, чым чакала-

---

[57] Перапісы насельніцтва 1921 і 1931 г., паводле якіх насельніцтва беларускай нацыянальнасьці ў міжваеннай Польшчы складала каля 1 млн., выклікалі крытыку польскіх дэмографаў і гісторыкаў. К. Сракоўскі ацэньваў яго ў 1,6 млн., А. Крысінскі ў 1,5 млн., А. Жарноўскі ў 1,8 млн., а З. Ландаў і Е. Тамашэўскі ў амаль 2 млн. асобаў. Гл.: Gomółka K. Тамсама, с. 9.

[58] Александровіч С. Тамсама, с. 164.

[59] Тамсама.

[60] Паводле справаздачы былога генэральнага сакратара Грамады М. Бурсевіча. Гл.: Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Т. I. Минск, 1962. С. 554.

[61] Picarda G. Тамсама.

ся, попыту чытачоў наклад выдадзенай у наступным годзе апошняй часткі гэтай паэмы быў зьменшаны да 1000 асобнікаў. Такім жа накладам у 1935 г. быў выдадзены найлепшы твор[62] Янкі Купалы “Шляхам жыцьця”.

Таму можна сьцьвярджаць, што высокатыражныя кнігі служылі галоўным чынам прапагандзе пэўных ідэйных каштоўнасьцяў і пераважна выдаваліся зацікаўленымі ў іх распаўсюджаньні небеларускімі арганізацыямі і ўстановамі — камуністычнай партыяй, польскімі адміністрацыйнымі ўладамі і часткова царкоўнымі асяродкамі.

## Канфіскацыі

Канфіскацыі беларускіх кніжак адміністрацыйнымі ўладамі міжваеннай Польшчы, галоўным чынам, віленскім гарадзкім стараствам, былі адносна рэдкай зьявай. Паводле зьвестак беларускай прэсы, якая скрупулёзна фіксавала такія выпадкі, у міжваенную пару былі канфіскаваныя 11 выданьняў, г.зн. 2,4% агульнай колькасьці выдадзеных кніжак[63].

Гэта былі наступныя публікацыі:

— Суліма. Што такое “Wyzwolenie” зь беларускага пункту гледжаньня. 1923;
— Працэс 45–ці беларусаў у Беластоку. 1923;
— З усіх бакоў польскае дзяржаўнасьці. 1926;
— Браславіч. І нас разбудзілі (п’еса). 1927;
— Васілёк М. Шум баравы. 1929;
— Ініцкі У. Сон Гаўрылы. 1929;
— Быліна Я. Na pokuci. 1934;
— Машара М. З–пад стрэх саламяных. 1937;
— Танк М. На этапах. 1936;
— Паўловіч С. Zasieŭki. 1937;
— Грынкевіч С. Асьвета. 1937.

Яўнае ўзмацненьне канфіскацыяў прыпадае на 1934—1937 гады, што было зьвязана зь пераходам дзяржавы да больш жорсткай палітыкі да нацыянальных мяншыняў, у выніку чаго былі зачыненыя: Таварыства беларускай школы (канец 1936 г.), Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (канец 1936 г.), Беларускі нацыянальны камітэт (студзень 1938 г.) і іншыя арганізацыі.

У гэтым кантэксьце апроч названых твораў Быліны, Машары і Танка, канфіскаваных неўзабаве пасьля іх выданьня, заслугоўвае ўвагі лёс зборнікаў вершаў Ініцкага “Сон Гаўрылы” і Васілька “Шум баравы”. Абедзьве гэтыя кніжкі, выдадзеныя ў 1929 г., на працягу некалькіх гадоў свабодна распаўсюджваліся і толькі ў канцы 1936 г. рэшткі іх накладу былі канфіскаваныя[64].

Палітычныя настроі, якія панавалі ў той час у колах дзяржаўнай адміністрацыі ў Вільні, красамоўна характарызуе лёс лемантара Сяргея Паўловіча “Zasieŭki”, то бок першага падручніка для навукі чытаньня і пісаньня. Лемантар быў канфіскаваны 29 траўня 1937 г., праз два тыдні пасьля яго выхаду з друку[65]. У кастрычніку таго году пасьля паданьня пазову віленскай пракуратурай у гэтай справе меўся адбыцца судовы разбор, на адкрыцьці якога абаронца аўтара, адвакат Б. Аляхновіч, патрабаваў, каб пра-

[62] Мусіла б быць “зборнік твораў”. — *А.С.*
[63] Падлік аўтара на падставе інфармацыі зь “Biełaruskaj Krynicy” (1927—1930), “Шляху Моладзі” (1933—1939) і “Летапісу беларускага друку”. Ч. III. Менск, 1927.
[64] Шлях Моладзі. 1937. № 2/101.
[65] Тамсама. 1937. № 6(105).

куратура выразна сфармулявала, які злачынны зьмест утрымлівае лемантар. Нягледзячы на супраціў пракурора, суд прызнаў патрабаваньне абаронцы слушным і адклаў справу да моманту, калі пракуратура перарэдагуе абвінавачаньне. Аднак гэтага так і не адбылося, таксама так і ня быў адноўлены судовы разбор, дарма што “небясьпечны” для польскай дзяржавы лемантар ня быў вызвалены з–пад арышту[66].

## Чытачы

Найбольшую ролю ў распаўсюджаньні беларускіх кніжак адыгралі кнігарні. У першыя паваенныя гады ў Вільні існавала заснаваная ў 1913 г. Вацлавам Ластоўскім кнігарня Беларускага выдавецкага таварыства на вул. Завальнай, 7. У той час гэта была адзіная беларуская кнігарня, якая прадавала кніжкі і часопісы ўсіх беларускіх выдаўцоў, незалежна ад іх ідэйнай арыентацыі.

Пасьля ўзмацненьня палітычных супярэчнасьцяў у кантэксьце дзейнасьці Грамады ў сакавіку 1926 кнігарня БВТ выключыла з продажу хадэцкую “Biełaruskuju Krynicu”, што выклікала канфлікт паміж БВТ і БХД. Як высьветлілі супрацоўнікі II аддзелу Генэральнага штабу Польскага войска, кнігарня БВТ у выніку немагчымасьці выкананьня фінансавых абавязкаў неўзабаве была купленая зьвязаным з хадэцыяй Станіславам Станкевічам[67]. Таму дзеячы Грамады і БВТ адчынілі асобную кнігарню на вуліцы Астрабрамскай, 1, а на процілеглым баку вуліцы, у доме № 2, Станіслаў Станкевіч разьмясьціў сваю кнігарню, перавезеную з вуліцы Завальнай, і кіраваў ёй ад уласнага імя.

У канцы дваццатых гадоў у Вільні паўстала трэцяя беларуская кнігарня “Пагоня”, якая найдаўжэй месьцілася на вуліцы Завальнай, 1. У гэтым доме месьцілася таксама друкарня імя Францішка Скарыны, а таксама рэдакцыі часопісаў і арганізацыяў хадэцкай арыентацыі. Гэтая кнігарня прадавала прадукцыю ўсіх беларускіх выдавецтваў.

Віленскія кнігарні і некаторыя выдавецтвы ўкладалі дамовы з кнігарнямі ў правінцыі, на падставе якіх апошнія займаліся продажам кніжак. Такія пункты продажу былі арганізаваныя ў Маладэчне, Валожыне, Лідзе, Ашмянах, Навагрудку, Слоніме, Горадні і, магчыма, у іншых месцах, аднак пра маштабы і вынікі іх дзейнасьці вядома няшмат.

Апроч таго, у распаўсюджаньні кніжак удзельнічалі рэгіянальныя суполкі віленскіх грамадзка–культурніцкіх арганізацыяў, у прыватнасьці, Таварыства беларускай школы і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. Для гэтай мэты віленскія арганізацыі і кнігарні давалі рэгіянальным суполкам крэдыты і часам рабілі значныя зьніжкі. Праўда, дзейнасьць гэтых суполак падлягала разнастайным абмежаваньням адміністрацыйных уладаў, аднак прынамсі да канца 1936 г., г.зн. да часу іх роспуску, яны маглі нямала зрабіць у справе распаўсюджаньня кніжак.

Падаецца, што, нягледзячы на цяжкасьці, наяўная сетка дыстрыбуцыі ў прынцыпе была дастатковай для рэалізацыі выдавецкай прадукцыі. Праўда, мы не валодаем зьвесткамі аб колькасьці прададзеных кніжак, аднак гэта не выключае магчымасьці іншай ацэнкі чытацкага попыту.

Такім чынам, у 1921—1939 г. нацыянальныя выдаўцы выкінулі на кніжны рынак (за выняткам канфіскаваных) 455 пазыцыяў. Гэта азначае, калі прыняць сярэдні наклад за 1000 асобнікаў, што агульная прапанова была ня большай за 455 тысяч асобнікаў. Гэтую лічбу варта павялічыць на больш як дзясятак кніжак, выпушчаных беларускімі выдавец-

[66] Тамсама. 1937. № 14(113).

[67] Krótki zarys zagadnienia białoruskiego. Opracowanie II Oddziału Sztabu Generalnego WP. Warszawa, 1928. S. 341—342.

твамі ў Коўне і, магчыма, на некалькі назваў, выпушчаных у Польшчы і ня ўлічаных у дадатку[68].

У сытуацыі, калі выдадзеныя ў савецкай Беларусі кніжкі ў прынцыпе траплялі толькі ў некаторыя польскія навуковыя бібліятэкі і зацікаўленыя дзяржаўныя ўстановы, колькасьць беларускіх кніжак, прызначаных для распаўсюджаньні на тэрыторыі Польскай рэспублікі, мабыць, не перасягала 500 тыс. асобнікаў. Такім чынам, на сярэднестатыстычнага беларуса выпадала (у залежнасьці ад ацэнак памераў гэтай нацыянальнай меншыні) усяго 0,25—0,5 асобнікаў за ўсю блізка што дваццацігадовую міжваенную пару. Нават пры аптымістычным дапушчэньні, што адной кніжкай карысталіся некалькі асобаў, гэты паказьнік павялічыўся б да каля 1 пазыцыі на чытача, і гэта пры ўмове поўнага продажу накладаў.

Аднак беларуская кніжка зь цяжкасьцю дабіралася ў сялянскія хаты. Пра гэта сьведчыць аналіз выдадзенага ў сярэдзіне 1937 г. каталёгу віленскай кнігарні "Пагоня". Вось жа, сярод 363 пазыцыяў, прапанаваных на продаж, было 156 кніжак, выдадзеных яшчэ да 1927 г., з чаго вынікае, што 43% прапановы складалі пазыцыі, наклады якіх не былі прададзеныя за дзесяць і больш гадоў. Варта заўважыць, што сярод іх было 17 пазыцыяў, выдадзеных яшчэ да 1917 г.[69].

З гэтага вынікае, што грамадзкі попыт на беларускую кніжку захоўваўся на вельмі нізкім узроўні і ў прынцыпе абмяжоўваўся вузкімі коламі інтэлігенцыі. Пры такім стане рэчаў выдавецкая дзейнасьць не магла мець істотнага ўплыву на рост нацыянальнай сьвядомасьці ў масавым маштабе, асабліва сярод беларускага сялянства. Гэтая праблема турбавала выдаўцоў і грамадзкіх дзяячоў, якія, правільна ацэньваючы матэрыяльнае і культурнае становішча вясковага насельніцтва, а таксама вынікі асыміляцыйнай палітыкі дзяржавы, так і не маглі знайсьці пазытыўнага вырашэньня[70].

## Агонія віленскага выдавецкага асяродзьдзя

У міжваенную пару ў Вільні было засяроджана каля сотні работнікаў кнігі — аўтараў, перакладчыкаў, выдаўцоў, друкароў і кнігагандляроў. Нэгатыўная палітыка польскай дзяржавы і неспрыяльныя ўнутраныя ўмовы хоць і не замінaлі выдавецкай дзейнасьці, але не спрыялі яе разьвіцьцю. Сілы гэтага асяродзьдзя пачалі слабець.

У міжваеннную пару і падчас апошняй вайны натуральнай сьмерцю памерлі (у дужках псэўданімы): у 1921 г. кс. Аляксандар Астрамовіч (А. Зязюля), у 1922 г. Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), у 1923 г. Ігнат Канчэўскі (І. Абдзіраловіч), у 1926 г. кс. Канстанцін Стаповіч (К. Сваяк), у 1934 г. Альбін Стаповіч, у 1938 г. Мікола Ільляшэвіч і Браніслаў Туронак, у 1939 г. Вячаслаў Адамовіч (Дзяргач), у 1940 г. кс. Баляслаў Пачопка і ў 1944 г. кс. Ільдэфонс Бобіч.

Адносна значная група работнікаў добраахвотна эміґравала ў СССР. Ужо ў пачатку дваццатых гадоў паехалі С. Чыжэўскі, Антон Грыневіч, Максім і Леаніла Гарэцкія, Аркадзь і Аляксандра Смолічы, Леапольд Родзевіч і Ўладзімер Жылка. Пасьля разгрому Грамады і "Змаганьня" да іх далучыліся Браніслаў Тарашкевіч, Ігнат Дварчанін, Пётар Мятла і Сымон Рак–Міхайлоўскі. Амаль усе яны загінулі ў савецкіх турмах і лягерох, у ссылцы.

[68] У 1919—1926 г. у Літве было выдадзена больш за 30 беларускіх кніжак. Найбольш кніжак (15) выйшла на сродкі міністэрства беларускіх справаў у Коўне. Паводле дамоўленасьці зь віленскім Беларускім навуковым таварыствам, частка накладаў прызначалася для патрэбаў беларускіх школаў на тэрыторыі Польшчы.

[69] Каталёг (кнігасьпіс) беларускіх кніг кнігарні "Пагоня". Вільня, 1937.

[70] Сялянская Ніва. 1926. № 4; Калосьсе. 1935. № 1; і іншыя.

**Сьпіс псэўданімаў і крыптанімаў**

| | |
|---|---|
| А.В. | Язэп Германовіч, кс. |
| Абдзіраловіч І. | Ігнат Канчэўскі |
| Адважны В. | Язэп Германовіч, кс. |
| Башкір Я. | Ян Пачопка |
| Быліна Я. | Ян Семашкевіч, кс. |
| Хмара С. | Сяргей Сіняк |
| Дзядзька Пранук | Францішак Умястоўскі |
| Дзяргач | Вячаслаў Адамовіч |
| І.Р. | Язэп Рэшаць, кс. |
| І.С. | Іосіф Сталін |
| Ініцкі У. | Уладзіслаў Паўлюкоўскі |
| Івэрс А. | Іван Міською |
| Я.Б. | Ян Семашкевіч, кс. |
| Ядвігін Ш. | Антон Лявіцкі |
| Каганец К. | Казімер Кастравіцкі |
| Казлоўшчык У. | Уладзіслаў Казлоўскі |
| М.А. | Фабіян Абрантовіч, кс. |
| М.Р. | Мар’ян Рапацкі |
| Малады Дзядок | Сяргей Новік |
| Н.К. | Казімер Найловіч, кс. |
| Навіна А. | Антон Луцкевіч |
| Нарцызаў Я. | Язэп Драздовіч |
| П.З. | Пётар Татарыновіч, кс. |
| Паляшук | Сяргей Паўловіч |
| Рушчанец Я. | Язэп Рэшаць |
| С.К. | Канстанцін Стаповіч |
| С.С. | Станіслаў Станкевіч |
| Скарыніч Б. | Ян Станкевіч |
| Сучасны | Леапольд Родзевіч |
| Суліма | Уладзімер Самойла |
| Сваяк К. | Канстанцін Стаповіч, кс. |
| Улад–Ініцкі | Уладзіслаў Паўлюкоўскі |
| Унук В. | Антон Падзява, кс. |
| Ваг | Вінцэнт Гадлеўскі, кс. |
| Васілёк М. | Міхась Касьцевіч |
| Верас Зоська | Людвіка Войцік |
| Задума П. | Пётар Татарыновіч, кс. |
| Зязюля А. | Аляксандар Астрамовіч, кс. |

У сакавіку 1938 г. кс. Язэп Рэшаць эміграваў у Злучаныя Штаты, дзе ўжо быў кс. Ян Тарасэвіч. У гэтым жа годзе на загад адміністрацыйных уладаў былі выселеныя зь Вільні кс. Язэп Германовіч (В. Адважны), Адам Станкевіч і Ўладзіслаў Талочка, інжынэр Адольф Клімовіч і клерык кляштару айцоў марыянаў у Друі Антон Падзява.

У 1939 быў арыштаваны і адпраўлены ў лягер у Бярозе Картускай Уладзіслаў Паўлюкоўскі (У. Ініцкі), а таксама працаўнікі друкарні імя Францішка Скарыны Язэп Найдзюк і Альфонс Шутовіч. Больш за дзесяць месяцаў у гэтым лягеры правёў паэт Сяргей Сіняк (Хмара). Усе яны выжылі і пасьля канца міжваеннай Польшчы вярнуліся дадому. Вярнуўся ў Вільню з ссылкі ў Слоніме таксама і кс. Адам Станкевіч і ў варунках Літоўскай рэспублікі аднавіў выдавецкую дзейнасьць. Аднак на кароткі час.

**Ужытыя скароты**

| | |
|---|---|
| БХД | Беларуская хрысьціянская дэмакратыя |
| Бел. | Беларуская, Беларускі |
| “Bieł. Krynica” | “Biełaruskaja Krynica” |
| БІГіК | Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры |
| БКВ | Беларускае каталіцкае выдавецтва |
| БСР Грамада | Беларуская сялянска–работніцкая грамада |
| БСРГ | Беларуская сялянска–работніцкая грамада |
| БВТ | Беларускае выдавецкае таварыства |
| “Chr. Dumka” | “Chryścjanskaja Dumka” |
| КПП | Камуністычная партыя Польшчы |
| КРПП | Камуністычная рабочая партыя Польшчы |
| КПЗБ | Камуністычная партыя Заходняй Беларусі |
| ТБШ | Таварыства беларускай школы |
| УСБ | Унівэрсытэт Сьцяпана Батуры ў Вільні |
| ВП | Польскае войска |
| Выд. | Выдавец, выданьне |

Агонія віленскага выдавецкага асяродзьдзя ўзмацнілася за савецкай уладай, як увосень 1939 г., так і ў паваенныя гады. Былі арыштаваныя і загінулі ў савецкіх турмах, лягерох, некаторыя і ў Катыні, наступныя аўтары і выдаўцы: кс. Фабіян Абрантовіч, С. Бусел, Станіслаў Грынкевіч, Францішак Грышкевіч, Макар Краўцоў, Антон Луцкевіч (А. Навіна), Антон Неканда–Трэпка, Ян Пазьняк, Уладзімер Самойла (Суліма), кс. Адам Станкевіч, Мікола Шкялёнак, Францішак Умястоўскі (Дзядзька Пранук).

У савецкія лягеры былі высланыя Ян Багдановіч, Фабіян Ярэміч, Адольф Клімовіч, Мар’ян Пецюкевіч і арыштаваны ў Манджурыі кс. Язэп Германовіч. Ім удалося выжыць, і ў сярэдзіне пяцьдзясятых яны выйшлі на волю.

У гады нямецкай акупацыі (1941—1944) загінулі ад рук наёмных забойцаў: Фабіян Акінчыц, кс. Станіслаў Глякоўскі, Уладзіслаў Казлоўскі (Казлоўшчык) і Францішак Аляхновіч, а арыштаваны менскім гестапа кс. Вінцэнт Гадлеўскі зьнік бязь вестак[71].

Напярэдадні вяртаньня Чырвонай Арміі летам 1944 г. эмігравалі на Захад: Натальля Арсеньнева, Тодар Ільляшэвіч, Язэп Малецкі, Радаслаў Астроўскі, Ян Станкевіч, Сяргей Сіняк (Хмара), Мікола Шыла, кс. Пётар Татарыновіч, Аляксей Васіленя. Тамсама пасьля дэмабілізацыі з арміі генэрала Андэрса засталіся Дамінік Аніська і кс. Язэп Германовіч — пасьля яго вызваленьня зь лягеру ў СССР.

Прытулак у Польшчы знайшлі Адам Більдзюкевіч, Ядвіга Грынкевіч, Язэп Найдзюк, Антон Падзява, Мар’ян Пецюкевіч, кс. Ян Семашкевіч (Я. Быліна), Антон Васілеўскі, Уладзіслаў Знамяроўскі і іншыя.

У савецкай Беларусі пасьля другой сусьветнай вайны жылі і тварылі Язэп Драздовіч, Міхась Касьцевіч (М. Васілёк), Іван Міська (А. Іверс), Міхась Машара, Яўген Скурко (М. Танк) і Рыгор Шырма.

Вільня апусьцела. У першыя паваенныя гады тут заставаліся толькі Людвіка Войцік (Зоська Верас) і Ўладзіслаў Паўлюкоўскі (У. Ініцкі). У сярэдзіне пяцьдзясятых гадоў у Вільню вярнуліся зь лягераў Ян Багдановіч, Фабіян Ярэміч і Адольф Клімовіч. Ува ўмовах савецкай Літвы гэтая дробная жменька даваенных работнікаў беларускай кнігі не была здольная працягваць ранейшую дзейнасьць. Толькі Людвіка Войцік захавала

[71] У “Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі” сьцьвярджаецца, што Ф. Акінчыца і У. Казлоўскага забілі савецкія партызаны; невядомы забойца Ф. Аляхновіча; кс. Вінцэнт Гадлеўскі і кс. Станіслаў Глякоўскі зьнішчаныя нацыстамі. — *А.С.*

свой багаты архіў[72], а Адольф Клімовіч падрыхтаваў біяграфічны слоўнік беларускіх дзеячоў міжваеннай пары, рукапіс якога трапіў у бібліятэку Акадэміі навук Беларусі ў Менску.

## Дадатак

У дадатку пералічаныя кніжкі на беларускай мове, выдадзеныя ў 1921—1939 г. у Польскай рэспубліцы з падзелам на паасобныя гады выданьня. У бальшыні выпадкаў год выданьня вызначаўся на падставе інфармацыі, зьмешчанай на вокладцы кніжкі, а ў выпадку яе адсутнасьці выкарыстоўвалася інфармацыя з прэсы. Кніжкі кожнага году падаюцца ў алфавітным парадку прозьвішчаў альбо псэўданімаў ці крыптанімаў аўтараў сучасным правапісам, а ў выпадку іх адсутнасьці — назваў кніжак. Прозьвішчы і псэўданімы аўтараў падаюцца ў арыгінальнай беларускай вэрсіі. У асобным сьпісе падаецца паказьнік псэўданімаў і крыптанімаў аўтараў і ў меры магчымасьці іх сапраўдных прозьвішчаў, за выняткам некалькіх агульнавядомых, як Купала, Колас і інш. Месца выданьня кніжкі ў Дадатку падаецца толькі тады, калі кніжка выйшла ня ў Вільні. Выданьні на кірыліцы падаюцца кірыліцай, на лацінцы — лацінкаю, а таксама, у меру магчымасьці, пазначаюцца выдавец, друкарня, аб'ём і наклад. Тэматычныя групы кніжак пазначаюцца наступнымі лічбамі:

I. школьныя падручнікі і пэдагагічная літаратура;
II. рэпэртуарная літаратура і сьпеўнікі;
III. мастацкая літаратура;
IV. рэлігійная літаратура;
V. грамадзка–палітычная літаратура;
VI. мовазнаўства, літаратуразнаўства, асьвета і культура;
VII. астатняя літаратура.

### 1921

Абдзіраловіч I. Адвечным шляхам. V, выд. БВТ, друкарня Клецкіна, 72 с.

Аляхновіч Ф. Няскончаная драма. II, выд. БВТ, друкарня "Друк", 72 с.

Аляхновіч Ф. Заручыны Паўлінкі. II, друкарня "Друк", 22 с.

Арытмэтычная тэрмінолёгія. I, выд. Беларускай Школьнай Рады, друкарня Клецкіна, 8 с.

Багушэвіч Ф. Дудка беларуская. III, выд. Знамяроўскага, друкарня "Друк", 64 с.

Bobič I. Niadzielašnija evanhielii i navuki. Č. 2, IV, vyd. "Krynicy", drukarnia "Druk", 74 s.

Bobič I. Niadzielašnija evanhielii i navuki. Č. 3, IV, vyd. "Krynicy", drukarnia "Druk", 68 s.

Гарэцкая Л. Родны край, першая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. I, выд. БВТ, друкарня Клецкіна, 94 с.

Гарэцкая Л. Родны край, трэцяя і чацьвёртая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. I, выд. Таварыства Беларускай Школы, друкарня Клецкіна, 208 с.

Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. I, выд. і друкарня Клецкіна, 207 с.

Гарэцкі М. Мутэрка. II, друкарня Клецкіна, 20 с.

Гарэцкія М. і Г. Маскоўска–беларускі слоўнік. VI, выд. Знамяроўскага, 144 с.

Дэкляматар. Выд. М. Гарэцкі, 48 с.

[72] Значная частка архіву Л. Войцік згарэла. — *А.С.*

Зборнік “Беларускіх Ведамасьцей” № 1. VII, выд. М. Гарэцкі, друкарня “Друк”, 80 с.
Зборнік “Беларускіх Ведамасьцей” № 2. VII, выд. М. Гарэцкі, друкарня “Друк”, 14 с.
Зборнік “Беларускіх Ведамасьцей” № 3. VII, выд. М. Гарэцкі, друкарня “Друк”, 16 с.
Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. I, выд. Знамяроўскага, друкарня “Друк”, 112 с.
Канчар А. Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі. V, выд. “Наша Думка”, друкарня “Друк”, 32 с.
Кісялёў А. Элемэнтарная альгебра. I, выд. Беларускага Навуковага Таварыства, друкарня “Szwyturis”, 82 с.
Kraskoŭski A. Biełaruskija ziołki. VII, vyd. “Krynicy”, drukarnia “Druk”. 24 s.
Навіна А. Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры. VI, выд. “Наша Думка”, друкарня “Друк”, 32 с.
Остэрлёф В. і Шустэр Ю. Сусьветная гісторыя. Ч. 2: Сярэднявечная гісторыя. I, выд. Беларускага Навуковага Таварыства, друкарня Клецкіна, 138 с.
Паўловіч А. Снапок. III, выд. Знамяроўскага, друкарня “Друк”, 32 с.
Родзевіч Л. Сцэнічныя творы. II, выд. Знамяроўскага, друкарня “Друк”, 34 с.
Смоліч Аляксандра. Зорка. I, выд. Беларускай Школьнай Рады, друкарня Клецкіна, 42 с.
Смоліч Аркадзь. Географія Беларусі. I, выд. і друкарня Клецкіна, 374 с.
Станкевіч Я. Беларуская правапісь з практыкаваньнямі. I, выд. БВТ, друкарня Клецкіна, 32 с.
Станкевіч Я. Паўкулі па–беларуску. VI, выд. ТБШ.
Чыжэўскі С. Коопэратары. VII, друкарня “Друк”, 16 с.
Чыжэўскі С. Першыя крокі ўраду спажывецкага таварыства (коопэратыва). VII, выд. “Wileński Związek Wspóldzielczy”, друкарня “Друк”, 30 с.
Чыжэўскі С. У аб’яднаньні моц і іншыя апавяданьні з жыцьця беларускіх коопэратываў. Выд. аўтара, друкарня “Друк”, 34 с.
Юрэвіч Г. Задачнік для пачатковае школы. I, выд. Беларускай Школьнай Рады, друкарня Клецкіна, 27 с.
Jadvihin Š. Uspaminy. V, vyd. Związku Krajowego [Krajovaj Suviazi. — ***Рэд.***], drukarnia “Druk”, 63 s.

## 1922

Аляхновіч Ф. Птушка шчасьця. II, выд. Беларускага Музычна–Драматычнага Гуртка, друкарня “Друк”, 38 с.
Аляхновіч Ф. Шчасьлівы муж. II, выд. Беларускага Музычна–Драматычнага Гуртка, друкарня Клецкіна, 68 с.
Bobič I. Niadzielašnija evanhielii i navuki. Č. 1, IV, vyd. “Krynicy”, drukarnia “Druk”, 70 s.
Дзядзька Пранук. Стася. III, выд. Знамяроўскага, друкарня “Друк”, 31 с.
Домбаль Т. Прамова перад Акружным судом у Варшаве. V, 34 с.
Гутоўскі У. Сурдут і сярмяга. II, выд. БВТ, друкарня Клецкіна, 58 с.
Кісялёў А. Элемэнтарная альгебра. Ч. 2, I, выд. БВТ, друкарня “Szwyturis”, 164 с.
Неканда–Трэпка А. Фізыка (мэханіка, цяплыня). I, выд. БВТ, друкарня Клецкіна, 228 с.
Остэрлёф В. і Шустэр Ю. Сусьветная гісторыя. Ч. 3: Гісторыя новых часаў. I, выд. Беларускага Навуковага Таварыства, друкарня Клецкіна, 150 с.
П’есы. II, выд. Знамяроўскага, друкарня “Друк”, 32 с.
Родзевіч Л. Беларусь (вершы). III, друкарня “Друк”, 32 с.

Рэзалюцыі III партыйнай канфэрэнцыі Камуністычнай Рабочай Партыі Польшчы. V, выд. КРПП, 30 с.

Смоліч Аляксандра. Зорка. Першая навука чытаньня і пісаньня. I, выд. БВТ, друкарня Клецкіна, 62 с.

Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка для школ. I, выд. БВТ, друкарня Клецкіна, 62 с.

## 1923

Вагнэр J (Мікалай? — ***Рэд.***). Апавяданьне аб жывёлах. I, выд. і друкарня Клецкіна, 27 с.

Гарэцкая Л. Родны край, другая кніжка пасьля лемантара. I, выд. і друкарня Клецкіна, 156 с.

Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры XI в. — 1905 г. I, выд. і друкарня Клецкіна, 264 с.

Грыневіч А. Навука сьпеву. I, выд. аўтара, друкарня Левіна, 40 с.

Дубоўка У. Строма (вершы). III, выд. “Наша Будучына”, друкарня “Друк”, 30 с.

Езавітаў К. Становішча беларускай школы ў Латвіі. VI, друкарня Бэкера, 28 с.

Жылка У. Уяўленьне (вершы). III, выд. “Новае Жыцьцё”, друкарня Гарбэра, 24 с.

Ziaziula A. Alenčyna viasielle. II, vyd. “Krynicy”, drukarnia Kleckina, 27 s.

Колас Я. У палескай глушы. III, выд. і друкарня Клецкіна, 186 с.

Купала Я. Шляхам жыцьця. III, выд. і друкарня Клецкіна, 272 с.

Купрын А. Алеся (апавяданьні). III, выд. і друкарня Клецкіна, 83 с.

Луцкевіч А. Як вучыць у новай школе? I, выд. Беларускай гімназіі ў Вільні, друкарня Двожэца (Dworzeca), 14 с.

Макманус. Ірляндзкія народныя казкі. III, выд. і друкарня Клецкіна, 148 с.

Нарцызаў Я. Пабрацімы і вялікая шышка. III, выд. і друкарня Клецкіна, 64 с.

Пачопка Я. Малочная карова. VII, выд. “Воля Народу”, друкарня Левіна, 84 с.

Пачопка Я. Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вульлях. VII, выд. БВТ, друкарня Левіна, 190 с.

Працэс 45–ці беларусаў у Беластоку. V, выд. Беларускага Дэпутацкага Клюбу, друкарня Двожэца (Dworzeca), 394 с.

Рак–Міхайлоўскі С. Арытмэтычны задачнік для пачатковых школ. I, выд. і друкарня Клецкіна, 46 с.

Смоліч А. Географія Беларусі. I, выд. і друкарня Клецкіна, 367 с.

Суліма. Што такое “Вызваленьне” зь беларускага пункту гледжаньня. V, друкарня Левіна, 44 с.

Сучасны. П. С. Х. II, выд. Беларускага Грамадзянскага Згуртаваньня, друкарня Бэкера, 20 с.

Сцэнічныя творы для дзіцячага тэатру. II, выд. Знамяроўскага, друкарня “Друк”, 44 с.

Тарас на Парнасе. III, выд. С. Станкевіча, друкарня “Друк”, 16 с.

Тарашкевіч Б. Прамова на X соймавым паседжаньні. V, друкарня Гарбэра.

Ядвігін Ш. Бярозка (апавяданьне). III, выд. і друкарня Клецкіна, 48 с.

## 1924

Аляхновіч Ф. Беларускі тэатар. VI, выд. Беларускага Грамадзянскага Згуртаваньня, друкарня “Люкс”, 114 с.

Аляхновіч Ф. Пан міністар. II, выд. “Голас Беларуса”, друкарня Бэкера, 54 с.

Астроўскі Р. Космографія. I, выд. БВТ, літаграфія, 84 с.

Bylina J. Na pryźbie. II, vyd. BVT, drukarnia Bekera, 56 s.
Верас З. Беларуска–польска–расейска–лацінскі батанічны слоўнік. VI, выд. “Голас Беларуса”, друкарня Бэкера, 76 с.
Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літэратуры. I, выд. аўтара, друкарня Клецкіна, 207 с.
Дзяргач. Тыпы Палесься. III, друкарня “Люкс”, 129 с.
Жылка У. На ростані (вершы). III, выд. БВТ, друкарня Левіна, 48 с.
Заходняя Беларусь. Зборнік грамадзкае мысьлі, навукі, літаратуры, мастацтва. VI, выд. БВТ, друкарня Вытворчага Каапэратыву, 155 с.
Каляда Б. Страшны вораг. Кніжка пра гарэлку. VII, выд. аўтара, друкарня Левіна, 38 с.
Констытуцыя Польскае Рэспублікі 17 III 1921 і Закон 10 I 1920 аб польскім грамадзянстве. VII, выд. “Голас Беларуса”, друкарня Левіна, 119 с.
Лермантаў М. Мцыры. III, выд. “Змаганьне”, друкарня Бэкера, 42 с.
Лёсік Я. Ня ўсе разам ягамосьці. II, выд. БВТ, 32 с.
Неканда–Трэпка А. Аналітычная геомэтрыя. I, выд. БВТ.
Неканда–Трэпка А. Фізыка (акустыка, оптыка). I, выд. БВТ, літаграфія, 76 с.
Неканда–Трэпка А. Фізыка (магнэтызм, электрыка). I, выд. БВТ.
Прамовы дэпутатаў Беларускага Пасольскага Клюбу ў польскім Сойме. V, выд. “Сын Беларуса”, друкарня Левіна, 48 с.
Рубакін Н. Расказы аб вялікіх падзеях розных часаў і народаў. VII, выд. і друкарня Клецкіна, 183 с.
С.К. Янка Канцавы. II.
Сваяк К. Мая ліра. III, выд. БВТ, друкарня Мотус, 112 с.
Смоліч Аляксандра. Зорка. I, выд. БВТ, 80 с.
Суліма. Які “самаўрад” гатуе беларускаму народу Польская Рэспубліка? V, выд. “Голас Беларуса”, друкарня Левіна, 32 с.
Суліма. Прафэсар Зьдзяхоўскі аб беларускай душы. VI, выд. “Змаганьне”, друкарня Левіна, 20 с.
Суседзкая Л. Фізыка для малодшых клясаў. I, выд. БВТ.
Трактат паміж галоўнымі саюзнымі і ставарышанымі дзяржавамі ды Польшчаю падпісаны ў Вэрсалі 28.6.1919 г. VII, выд. “Голас Беларуса”, друкарня Бэкера, 31 с.

## 1925

Аляхновіч Ф. Дрыгва. II, выд. Часовай Беларускай Рады, 64 с.
Астроўскі Р. Беларускі правапіс. I, выд. і друкарня Клецкіна, 102 с.
Беларускі сьпеўнік. II, выд. С. Станкевіч, 32 с.
Вульфіюс А.Х. Навейшая гісторыя. I, выд. БВТ, друкарня Левіна, 122 с.
Галоўныя асновы мэтадызму. IV, друкарня Левіна, 16 с.
Луцкевіч А. Вільня ў беларускай літаратуры. VI, 15 с.
Пачопка Я. Гароднiцтва. VII, выд. БВТ, 55 с.
Песьні духоўныя з гары Сіонскай (кірыліцай і лацінкай). IV, выд. Місіі Мэтадыстаў у Варшаве, 19 с.
Рыбкін Н. Геомэтрычны задачнік. I, выд. БВТ, друкарня Левіна, 115 с.
Служба Божая. IV, выд. Місіі Мэтадыстаў у Варшаве.
Станкевіч А. Доктар Францішак Скарына першы друкар беларускі 1525—1925. V, выд. Беларускага Навуковага Таварыства, 56 с.
Stankievič A. Doktar Francišak Skaryna pieršy drukar biełaruski 1525—1925. V, vyd. “Krynicy”, drukarnia “Pogoń–Pax”, 59 s.

## 1926

Бах С. Цар–голад. V, выд. Беларускай Сялянска–Работніцкай Грамады, друкарня “Скарына”, 41 с., 20 000 ас.
Bellami. Kazka ab vadzie. I, vyd. BSR Hramady, 14 s., 10 000 as.
Більдзюкевіч А. Асновы грамадзкай гаспадаркі. VII, выд. аўтара, друкарня “Скарына”, 180 с.
Блок А. Дванаццаць. III, 29 с.
Bylina J. Vybary staršyni. II, vyd. “Bieł. Krynicy”. Drukarnia “Skaryna”, 24 s.
Друцкі–Падбярэскі Б. Байкі. III, друкарня “Nowoczesna”, 62 с.
Эвангельле паводле Яана. IV, выд. і друкарня “Компас”, Лодзь, 62 с.
Эвангельле паводле Лукі. IV, выд. і друкарня “Компас”, Лодзь, 86 с.
Гарэцкая Л. Родны край. I, выд. БВТ, друкарня “Żaibas”, 96 с.
Гарэцкая Л. Родны край. Хрэстаматыя. I, выд. БВТ.
Hołub–Bučynskaja M. Alkahol i baraćba z jim. VII, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 24 s.
Гурскі А. Наглядны арытмэтычны задачнік. I, выд. і друкарня Клецкіна, 39 с.
Joergensen J. Prypovieści. IV, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 55 s.
З усіх бакоў польскае дзяржаўнасьці. V.
Інструкцыя для зьбіраньня слоўніка–тэрмінолёгічнага матэр’ялу ў беларускай мове. VI, друкарня Левіна, 8 с.
Kantyčka. Sabrańnie nabožnych piesień. IV, vyd. “Bieł. Krynicy”.
Куды і як эміграваць? VII, выд. Знамяроўскага, 16 с.
Лермантаў М. Дэман. III, выд. БВТ, 44 с.
Małaziamielnik. Ci maje być u Polščy praviedziena ziamielnaja reforma? VII, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 12 s.
Паўловіч С. Сьвяшчэнная гісторыя Старога Завету. IV, выд. аўтара, друкарня Левіна, 164 с.
Прамовы дэпутатаў Беларускага Пасольскага Клюбу. V, друкарня Левіна, 16 с.
Прамовы дэпутатаў Соймавага Клюбу БРС Грамады. Друкарня Левіна, 82 с.
Родзевіч Л. Сцэнічныя творы. II.
Сваяк К. Чарку дай, браце. II, выд. “Сялянская Ніва”, друкарня “Скарына”, 13 с.
Станкевіч С. Сьмех ня грэх (гумарыстычныя вершы). Выд. А. Яцыны, друкарня “Скарына”, 64 с.
Стаповіч А. Дзе чутны мовы нашай гукі. II.
Stapovič K. Hołas dušy. Malitveńnik dla biełarusaŭ–katalikoŭ. IV, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Pax”, 176 s.
Сянкевіч Г. Бартэк пераможнік. III, выд. БВТ, друкарня Левіна, 83 с.
Цёшча ў дом — усё ўверх дном. II, 38 с.

## 1927

Арсеньнева Н. Пад сінім небам. III, выд. і друкарня Клецкіна, 144 с.
Багдановіч М. Вянок (вершы). III, выд. і друкарня Клецкіна, 118 с.
Bahuševič F. Dudka biełaruskaja. III, vyd. Biełaruskaj Sialanskaj Partyji, drukarnia “Skaryna”, 48 s.
Башкір Я. Гурток. II, выд. Беларускай Сялянскай Партыі, друкарня “Скарына”, 32 с.
Браславіч П. І нас разбудзілі. II.
Васілеўскі Я. Дахапаліся. II, выд. А. Яцына, друкарня “Скарына”, 16 с.

Васілеўскі Я. Скарб. III, выд. "Беларуская Хатка", 16 с.
Вясёлы К. (Аўдзей В.) Ня розумам сьцяміў, а сэрцам. II, выд. П. Мятла, друкарня Клецкіна, 48 с.
Дварчанін I. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. I, выд. БВТ, 498 с.
Додэ А. Сакрэт дзядзькі Карніла. III, выд. "Пагоня", друкарня "Скарына", 56 с.
Друцкі–Падбярэскі Б. Пернік. III, друк Баеўскага, 10 с., 1000 ас.
Эвангельле паводле Мацьвея. IV, выд. і друкарня "Компас", Лодзь, 80 с.
Галубок У. Суд. II, выд. БВТ, 32 с.
Harotny S. Lekary i leki. II, vyd. BVT, drukarnia "Nowoczesna", 80 s.
Гарэцкі М. Атрута. II, выд. БВТ, друкарня Клецкіна, 16 с.
Hrynkievič S. Ab teatry. VI, vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 53 s., 500 as.
Hrynkievič S. Arlanio. III, vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 52 s.
Hrynkievič S. Žanimstwa pa radyjo. II, vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 38 s.
Hrynkievič S. Narod. Vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 31 s., 1000 as.
Hryškievič F. Viesnavyja melodyji. III, vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 77 s.
З роднай нівы (зборнік). VII, выд. БІГіК, друкарня "Скарына", 141 с.
І.Р. Асновы хрысьціянскай веры для беларускага народу. IV, 45 с.
Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. I, выд. Знамяроўскага, друк "Крэйнэс і Кавальскі", 116 с.
Kazłoŭščyk U. Fizyčnaje vychavańnie hramadzianstva. VII, vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 88 s., 1000 as.
Колас Я. Выбраныя творы. III, выд. БВТ, 78 с.
Колас Я. Казкі жыцьця. III, выд. і друкарня Клецкіна, 99 с.
Kołas J. Prapaŭ čałaviek. Niomnaŭ dar. Toŭstaje palena. III, vyd. Biełaruskaj Sialanskaj Partyji, drukarnia "Skaryna", 48 s.
Купала Я. Адвечная песьня. II, выд. Беларускай Сялянскай Партыі, друкарня "Пакс", 32 с., 2000 ас.
Купала Я. Паўлінка. II, выд. I. Мятла, 63 с.
М.Р. Палажэньне спажыўца. VII, выд. Зьвязу спажывецкіх каапэратываў, 34 с.
Малады Дзядок. Ёлка Дзеда Мароза. II, выд. ТБШ, 16 с.
Міхаіл. Хрыстовы золак (вершы). IV, друкарня "Скарына", 62 с.
Неканда–Трэпка А. Аналітычная геомэтрыя. I, выд. аўтара, літаграфія, 44 с.
Нэйтральнага месца няма, IV, выд. і друк "Компас", Лодзь, 11 с.
Ожэшко Э. У зімовы вечар. II, выд. I. Мятла і I. Дварчанін, 31 с.
П.С. Ніва і краскі. III, выд. Беларускай Сялянскай Партыі, 102 с.
Пачопка Я. Дурнішча. Народная казка зь Дзісеншчыны. III, выд. і друк Клецкіна, 16 с.
Прыпавесьць пра блуднага сына (Лукі, 15). IV, выд. і друк "Компас", Лодзь, 36 с.
Rešeć J. Karotki katechizm dla biełarusaŭ–katalikoŭ. IV, vyd. koštam mitrapalita vilenskaha, drukarnia "Skaryna", 46 s.
Sadok dla našych dzietak (apaviadańni). III, vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 40 s.
Sałaŭjova P. (Allegro), Cudoŭnaja noč. II, vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 38 s.
Сцэнічныя творы. II, выд. "Пагоня", друкарня "Скарына", 70 с.
Смоліч А. Зорка. I, выд. БВТ, друк Бэкера, 63 с., 10 000 ас.
Смоліч А. Зорка. I, выд. БВТ, друкарня "Пакс", 80 с., 2000 ас.
Сьвятыя віленскія мучанікі Антон, Іван і Астап — патроны Беларусі. IV, адбітка з праваслаўнага календара на 1927 г., 12 с.
Уліцын Аграном. Суд над трохпалёўкай. II, выд. БВТ, 30 с.
Ядвігін Ш. Дзед Завала. III, выд. Знамяроўскага, 14 с.

## 1928

А.К. Казкі. III, выд. Знамяроўскага, 32 с.

A.V. Jak Kaziuk sabraŭsia da spoviedzi. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 68 s., 1000 as.

Васіленя А. Спажывецкі каапэратыў і праца ў ім. VII, выд. аўтара, друкарня Левіна, 35 с., 2000 ас.

Васілеўскі А. Беларускі соньнік. VII, выд. аўтара, друкарня “Скарына”, 67 с., 2000 ас.

Гнатышак М. З сучаснае мастацкае прозы Нямеччыны. VI, выд. БВТ, друк Крэйнэс і Кавальскі, 27 с., 2000 ас.

Грыневіч А. Дзяцячы сьпеўнік. II, выд. аўтара.

Hrynkievič A. Carkva, Pomsta, Viaźnica. III, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 126 s., 800 as.

Друцкі–Падбярэскі Б. Байкі, гумар, сатыра. III, выд. і друкарня Клецкіна, 64 с., 1000 ас.

Ініцкі У. Сон Гаўрылы і розныя вершы. III, выд. Знамяроўскага, друк “Notes i Szwajlich”, 32 с., 1500 ас.

Kazłoŭščyk U. Ab fizyčnym vychavańni ŭ Biełarusaŭ. VII, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 127 s., 1000 as.

Караленка У. Судны дзень. III, выд. БВТ, друкарня Левіна, 87 с.

Караленка У. Сьляпы музыка. III, выд. і друк Клецкіна, 163 с., 1000 ас.

Колас Я. Нёмнаў дар і іншыя расказы. III, выд. і друк Клецкіна, 78 с., 1000 ас.

Колас Я. Новая зямля. Ч. 1, III, выд. Беларускай Сялянскай Партыі, друк Бэкера, 122 с., 2000 ас.

Колас Я. Новая зямля. Ч. 2, III, выд. Беларускай Сялянскай Партыі, друкарня “Пакс”, 123—186 с.

Колас Я. Сымон Музыка. III, выд. “Пагоня”, друкарня “Скарына”, 211 с., 2000 ас.

Крапіўніцкі М. Па рэвізіі. Каганец К. Модны шляхцюк. II, выд. БВТ, друкарня Левіна, 32 с., 2000 ас.

Крапіўніцкі М. Пашылісь у дурні. II, выд. ТБШ, друкарня “Пакс”, 32 с., 2000 ас.

Kupała J. Advіečnaja pieśnia. II, vyd. BVT.

Купала Я. На Куцьцю. II, выд. Таварыства “Прасьвета”, друкарня “Скарына”, 16 с., 1000 ас.

Лугам, лугам зеляненькім (раманс). II, выд. БВТ.

Луцкевіч А. За двадцаць пяць гадоў. V, выд. БВТ, друкарня “Скарына”, 52 с., 1000 ас.

M.A. Boh. Filozofičny narys. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 24 s.

Машара М. Малюнкі (вершы). III, выд. Л. Войцік, друкарня “Скарына”, 16 с.

Niemirovič–Dančenko V. Stary zamak. III, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 39 s., 1000 as.

P.Z. Ziarniatki z rodnaje junackaje nivy. V, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 15 s., 1000 as.

Пазашкольная асьвета. Культурна–асьветная праца ў гуртках ТБШ. VI, выд. ТБШ, друкарня “Скарына”, 15 с., 300 ас.

Паўловіч С. Аб арганізацыі беларускае працоўнае школы. VI, выд. БВТ, друкарня “Скарына”, 16 с., 300 ас.

Пачопка Я. Як выбраць добрага каня. VII, выд. Беларускай Радыкальна–Сялянскай Партыі, 31 с., 2000 ас.

Рунь веснаходу. Зборнік твораў паэтаў і пісьменьнікаў Заходняй Беларусі. III, выд. БВТ, друк Крэйнэс і Кавальскі, 48 с., 2000 ас.

Rešeć J. Z historyi apolohietyki chryścijanskaj. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 103 s., 1000 as.

Сцэнічныя творы. II, выд. БВТ, друкарня Левіна, 48 с., 3000 ас.
С.С. Беларускі дэкляматар. II, выд. Знамяроўскага, друкарня “Пакс”, 64 с., 2000 ас.
Siemaškievič J. Ružaniec Najśviaciejšaj Dzievy Maryi. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 35 s.
Stankievič A. Biełaruskaja mova ŭ školach Biełarusi XVI—XVIII st. V, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 19 s., 1000 as.
Stankievič S. Z majho vakonca. Zbornik vieršaŭ. III, vyd. J. Hapanoviča, drukarnia “Skaryna”, 64 s., 1500 as.
Талстой Л. Для дзяцей. III, выд. і друк Клецкіна, 158 с.
Талстой Л. Ці шмат чалавеку трэба зямлі і другія апавяданьні. III, выд. Знамяроўскага, друк “Zorza”, 31 с., 1500 ас.
Tarasievič J. Zło i lakarstwa na jaho. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 32 s., 1000 as.
Tatarynovič P. Śv Izydar chlebarob. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 31 s., 1000 as.
Твэн М. Прынц і жабрак. III, выд. і друк Клецкіна, 215 с.
Turonak B. Hygijena uzhadavańnia dziciaci. VII, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 40 s., 1000 as.
У коопэрацыі будучына. VII, выд. БВТ, 16 с.

## 1929

A.V. Kaziukovaje žanimstva. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 77 s., 1000 as.
Астроўскі Р. Арытмэтычны задачнік для пачатковых школ. Ч. 1, для вучняў, I, выд. і друкарня Клецкіна, 136 с., 1000 ас.
Астроўскі Р. Арытмэтычны задачнік для пачатковых школ. Ч. 2, для настаўнікаў, I, літаграфія, 112 с.
Беларускі сьпеўнік з нотамі. II, выд. БВТ, 16 с.
Васіленя А. Залажэньне спажывецкага каапэратыву на вёсцы. VII, выд. аўтара, друкарня Левіна, 16 с., 2000 ас.
Васілёк М. Шум баравы. III, выд. Р. Шырмы, друкарня Левіна, 127 с., 1000 ас.
Гарэцкая Л. Родны край. I, выд. і друк Клецкіна, 144 с., 1000 ас.
Дамарослы. Аматарскі зборнік лірычных твораў. III, выд. J. (? — ***Рэд.***) Харытановіч, друкарня “Скарына”, 32 с.
Друцкі–Падбярэскі Б. Падручны беларуска–польскі слоўнік. VI, выд. і друкарня Клецкіна, 324 с.
Дыфоў Д. Робінзон Крузо. III, выд. Беларускай Сялянскай Партыі, друкарня “Пакс”, 96 с., 1000 ас.
Завадовіч Р. Князь Марцыпан. II, выд. “Заранка”, друкарня “Скарына”, 16 с., 1000 ас.
І.С. Марксызм і нацыянальнае пытаньне. V, выд. Беларускага Пасольскага Клюбу “Змаганьне”, друк Левіна, 68 с., 2000 ас.
Ігараў J (? — *Рэд.*). Сірата. II, друк “Zorza”, 8 с., 1500 ас.
Ільляшэвіч Х. Веснапесьні. III, выд. Ніны Ільляшэвіч, друкарня Левіна, 71 с., 1000 ас.
Ініцкі У. Клім бабаю і іншыя жарты. III, выд. Знамяроўскага і Будзькі, друкарня “Пакс”, 32 с.
J.B. Pieśni žalby. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 16 s.
Колас Я. Новая зямля. Ч. 3, III, выд. Беларускай Сялянскай Партыі, друкарня “Пакс”, 167—295 с., 1000 ас.
Крывіцкі B.J. (? — *Рэд.*) і Выкачка. Як палепшыць пяскавую глебу. VII, выд. “Саха”, друкарня “Скарына”, 24 с., 1000 ас.

Lubič–Majeŭski S. Pieršy pramień. I, Dziaržaŭnaje Vydaviectva Školnych Knižak, Lvoŭ, 118 s.

M.A. Čałaviek. Filozofična–hramadzki narys. IV, vyd. "Chr. Dumki", drukarnia "Skaryna", 16 s.

Маркс К. Барацьба клясаў у Францыі 1848—1850. V, выд. Беларускага Пасольскага Клюбу "Змаганьне", друк Левіна, 152 с., 2000 ас.

Навіна А. Адбітае жыццё. VI, выд. БВТ, друкарня Левіна, 145 с.

Ožeško E. Cham. II, vyd. Biełaruskaj Sialanskaj Partyji, drukarnia "Skaryna", 16 s.

Паляшук. Некалькі ўваг аб "беларускім" "Лемантары" Ст. Любіч–Маеўскага. VI, выд. Таварыства "Рунь" у Беластоку, друкарня "Скарына", 16 с., 400 ас.

(Paźniak J.) Samaŭrad viaskovych hmin. V, "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 15 s.

Паўловіч А. Снапок. III, выд. Знамяроўскага, 39 с.

Паўловіч С. Пішы самадзейна. I, выд. аўтара, друкарня "Скарына", 88 с., 4000 ас.

Паўловіч С. Мэтадычныя ўвагі да пасобніка "Пішы самадзейна". I, выд. аўтара, друкарня "Скарына", 15 с.

Песьні духоўныя (працяг). IV, выданьне мэтадыстаў, друкарня "Pogoń–Pax", 16 с., 500 ас.

Плеханаў Г.В. Аснаўныя пытаньні марксызму. V, выд. Беларускага Пасольскага Клюбу "Змаганьне", друк Левіна, 125 с., 2000 ас.

(Рэймонт В.С.) Абарона зямлі. III, выд. Беларускай Сялянскай Партыі, друкарня "Zorza", 8 с.

Stankievič A. Rodnaja mova ŭ śviatyniach. IV, vyd. "Chr. Dumki", drukarnia "Skaryna", 192 s., 900 as.

Stapovič A. Biełarusy i dziaržaŭnaja niezaležnaść. V, vyd. "Biel. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 16 s., 1000 as.

Тагабочны. Змагары за ідэю. V, выд. Беларускага Пасольскага Клюбу "Змаганьне", друк Левіна, 75 с., 2000 ас.

Талстой Л. Ад чаго зло на сьвеце. III, выд. Знамяроўскага, 23 с., 1500 ас.

Тарас на Парнасе. III, выд. С. Станкевіча, друкарня "Скарына", 15 с., 2000 ас.

Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка для школ. I, выд. Веры Тарашкевіч, друкарня "Скарына", 143 с.

Шырма Г. Беларускія народныя песьні. II, выд. аўтара, друкарня "Скарына", 63 с.

Энгельс Ф. Разьвіцьцё соцыялізму ад утопіі да навукі. V, выд. Беларускага пасольскага клюбу "Змаганьне", друкарня Левіна, 136 с., 2000 ас.

## 1930

A.V. Jak Hanula źbirałasia ŭ Arhientynu. III, vyd. "Chr. Dumki", drukarnia "Skaryna", 30 s., 1000 as.

Астроўскі Р. Беларускі правапіс. I, выд. і друкарня Клецкіна, 148 с., 1000 ас.

Bahuševič F. Dudka biełaruskaja. III, vyd. BIHiK, drukarnia "Skaryna", 56 s., 1000 as.

Bahuševič F. Dudka biełaruskaja i Smyk biełaruski z krytyčnym narysam A. Stankieviča. III, vyd. BIHiK, drukarnia "Skaryna", 140 s., 1000 as.

Bahuševič F. Smyk biełaruski. III, vyd. BIHiK, drukarnia "Skaryna", 32 s., 1000 as.

Беларускія (крывіцкія) казкі з трыкалёрнымі малюнкамі. III, выд. Беларускай сялянскай партыі.

Божая ліра. Хрысьціянскія песьні. IV, выд. "Southern Trade", 186 с., 1500 ас.

Bylina J. Daroha Kryža — nabaženstva na Vialiki Post. IV, vyd. "Chr. Dumki", drukarnia "Skaryna", 32 s. 1000 as.

Hadleŭski V. Historyja śviataja abo biblijnaha Staroha Zakonu. IV, vyd. BKV, drukarnia "Skaryna", 151 s., 1500 as.

Zaduma P. Kupalle. III, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 70 s.

Kazłoŭŝčyk U. Płač biełaruskaj staronki matki pa dzietkach svaich renehatach. III, vyd. J. Bahdanovič, drukarnia “Skaryna”, 24 s., 1000 as.

Kazłoŭŝčyk U. Biełaruskija narodnyja pieśni z Sakolskaha pavietu. II, vyd “Biel. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 40 s., 1000 as.

Курс нядзельнае школы. IV, выд. “Southern Trade”, друкарня Знамяроўскага, 142 с.

Маркс К. 18–е брумэра Луі Бонапарта. V, выд. Беларускага Пасольскага Клюбу “Змаганьне”, друк Левіна, 119 с., 2000 ас.

Наваградчына ў дзясятыя ўгодкі незалежнасьці Рэчыпаспалітай Польскай. V, выд. “Nowogrodzki Komitet Społeczny Obchodów 10 rocznicy niepodległości Polski”, друк “Wydział powiatowy w Nowogródku”, б.м.в., 29 с.

Наваградчына ў 1926—1930 гг. V, выд. “Беспарцейны блёк спаўпрацы з урадам” у 1930 г., друк “Wydział powiatowy w Nowogródku”, 14 с.

Svajak K. Kupalle. Fantazija–misteryum. III, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 15 s., 300 as.

Смоліч А. Зорка. I, выд. БВТ, друкарня “Пакс”, 80 с., 1000 ас.

Станкевіч А. Вітаўт Вялікі і беларусы. V, выд. Беларускага Народнага Камітэту, друкарня “Скарына”, 31 с., 1000 ас.

Stankievič A., Francišak Bahuševič, jaho žyćcio i tvorčaść. VI, vyd. BIHiK, drukarnia “Skaryna”, 50 s., 1000 as.

Хрысьціянскія беларускія мэтодыстычныя абходы. IV, выд. “Southern Trade”, друкарня Левіна, 39 с., 500 ас.

## 1931

A.V. Adam i Anielka. III, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 69 s., 1000 as.

Акінчыц Ф. Чаму гэта так сталася? (да справы выезду заграніцу б. правадыра Грамады). V, друкарня Знамяроўскага, 16 с., 10 000 ас.

Біанкі В. Лясныя хаткі. III, выд. Таварыства Беларускіх Жанчын, друкарня Левіна, 18 с., 500 ас.

Біанкі В. Мышанё Пік. III, выд. Таварыства Беларускіх Жанчын, друкарня Левіна, 42 с., 1000 ас.

Vah. Palityčnyja i hramadzkija kirunki ŭ minuŭŝčynie i sučasnaści. V, vyd, “Šlach Moładzi”, drukarnia “Skaryna”, 33 s., 1000 as.

Hareckaja L. Rodny kraj. I, vyd. BVT, drukarnia Levina, 96 s., 1000 as.

Драздовіч Я. Нябесныя бегі. VII, друкарня Двожэца, 24 с.

Ziaziula A. Z rodnaha zahonu. Zbornik vieršaŭ. III, vyd. ks. J. Siemaškieviča, drukarnia “Skaryna”, 175 s., 1000 as.

Колас Я. Новая зямля. III, выд. БІГіК, друкарня “Скарына”, 288 с., 1000 ас.

Колас Я. У глыбі Палесься. III, выд. і друкарня Клецкіна, 207 с., 800 ас.

N.K. Śviaty Rym. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 67 s.

Новы Запавет Госпада Нашага Ісуса Хрыста і Псальмы. IV, выд. Брытанскае і Замежнае Біблійнае Таварыства, Гельсінфорс, друк у Лодзі, 446 с., 25 000 ас.

Ruščaniec J. Pieršyja łastaŭki. II, vyd. BIHiK, drukarnia “Skaryna”, 24 s., 1000 as.

Скарыніч Б. Нашто і як зьбіраці географічныя і асабовыя назовы беларускія. VI, выд. Беларускага Студэнцкага Саюзу, друкарня Левіна, 14 с., 1000 ас.

Stankievič A. Kazimier Svajak. Narys ab jahonaj ideolohii. V, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 67 s., 1000 as.

Stankievič J. Novy lemantar dla biełaruskich dzietak. I, vyd. BVT, drukarnia Levina, 32 s., 800 as.

Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка для школ. I, выд. БВТ, друкарня Левіна, 112 с., 800 ас.

Ярэміч Ф. Прамова на пасяджэньні Сойму 9.2.1931. V, выд. аўтара, друкарня “Скарына”, 7 с., 2500 ас.

Ярэміч Ф. Прамова на пасяджэньні Сойму 2.10.1931. V, выд. аўтара, друкарня “Скарына”, 7 с., 1500 ас.

## 1932

A.V. Betlejka. II, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 16 s., 600 as.

A.V. Kaniok–Harbuniok. III, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 88 s., 1000 as.

А.В. Унія на Палесьсі. IV, выд. Таварыства Ісуса, друкарня “Скарына”, 16 с., 1000 ас.

Alchoŭski I. Jak žyviecca sialanstvu pad kamunistyčnaj uladaj? V, drukarnia Znamiaroŭskaha, 16 s., 2000 as.

Božaja Chvała. Malitaŭnik zakonu ajcoŭ Maryjanaŭ. IV, vyd., Źviaz ajcoŭ Maryjanaŭ u Drui, drukarnia “Skaryna”, 83 s.

Бусел С. Матыльковыя расьліны. VII, выд. “Цэнтрасаюз”, друкарня Левіна, 62 с., 1000 ас.

Голуб–Бучынская М. Што такое сухоты? VII, выд. аўтара, друкарня “Скарына”, 14 с., 1000 ас.

Грыневіч А. Навука сьпеву. I, друкарня Левіна, 40 с.

Загінуў ці спасёны. IV, выд. і друк “Компас”, Лодзь, 12 с.

Ільляшэвіч М. Кароткі нарыс псыхолёгіі. I, выд. аўтара, друкарня “Скарына”, 47 с., 1000 ас.

Ільляшэвіч Х. Зорным шляхам. III, выд. БВТ, друкарня Левіна, 64 с., 500 ас.

Kazłoŭščyk U. Puty kachańnia. III, vyd. Znamiaroŭskaha, 92 s., 600 as.

Клімовіч А. Культура і палітыка. V, выд. “Bieł. Krynicy”, друкарня “Скарына”. 16 с., 500 ас.

Klimovič A. Leki na ździeki. VII, vyd. BIHiK, drukarnia “Skaryna”, 32 s.

Klimovič A. Ziemlarobskaja čytanka. VII, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 147 s., 1000 as.

Луцкевіч А. Янка Купала як прарок адраджэньня. VI, выд. аўтара, друкарня Левіна, 16 с., 1000 ас.

Pačorka B. Jak vučyć nas vieryć i žyć śviataja Chrystovaja Paŭsiudnaja Carkva. IV, vyd. aŭtara, drukarnia “Skaryna”, 16 s., 2000 as.

Русаковіч А. У краіне прымусу. V, выд. “Цэнтрасаюз”, друкарня Левіна, 30 с., 4000 ас.

Русаковіч А. Што такое “калгасы”? V, выд. “Цэнтрасаюз”, друкарня Левіна, 29 с., 4000 ас.

Русаковіч А. Ад волі — да прымусу. V, выд. “Цэнтрасаюз”, друкарня Левіна, 26 с., 4000 ас.

Рэлігійнае жыцьцё на Беларусі. IV, выд. Беларускага рэлігійна–грамадзкага саюзу, друкарня “Скарына”, 64 с, 1000 ас.

Svajak K. Dzieja majej myśli, serca i voli. V, vyd, “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 250 s.

## 1933

A.V. Biełaruskija cymbały. (Zbornik vieršaŭ.) III, vyd. BIHiK, drukarnia “Skaryna”, 72 s., 1000 as.

Акінчыц Ф. Правакацыя беларускага народу (да справы б. старшыні Грамады Б. Тарашкевіча). V, друкарня Знамяроўскага, 36 с., 500 ас.

Aniśko D. Usio ŭ miłaści. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 52 s.

Babroŭski A. Čamu ciapier ciažka žyviecca ziemlarobam. V, drukarnia Znamiaroŭskaha, 16 s., 4000 as.

Barkoŭski S. “Kamsamoł” i jahonyja mety. V, drukarnia Znamiaroŭskaha, 15 s., 4000 as.

Беларуска–славянскі лемантар (буквар) і першая навука Закону Божага. Падарunачак добрым дзеткам. IV, выд. Праваслаўнай Мітраполіі ў Варшаве, Сынадальная друкарня, 122 с., 2000 ас.

Біанкі В. Мурзік. III, выд. Таварыства Беларускай Асьветы, друкарня Левіна, 133 с., 500 ас.

Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны. V, друкарня Левіна, 35 с.

Вілянчук А. Супраць расправы акупантаў над Б. Тарашкевічам. V, Беласток, выд. КПЗБ.

Hadleŭski V. Historyja śviataja abo biblijnaja Novaha Zakonu. IV, vyd, BKV, drukarnia “Skaryna”, 186 s., 1500 as.

Ільляшэвіч М. Расейская палітыка на землях былога Беларуска–Літоўскага гаспадарства за панаваньня Кацярыны II і Паўлы I (1772—1801). V, друкарня Левіна, 24 с.

Ільляшэвіч Х. Ядвігін Ш. выд. Таварыства Беларускай Асьветы, друкарня Левіна, 37 с., 280 ас.

Жыткоў Б. Пра малпачку. III, выд. Таварыства Беларускай Асьветы, друкарня Левіна, 30 с., 500 ас.

Keturakis. Ameryka ŭ łaźni. II, vyd, “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 46 s., 1000 as.

Колас Я. У старых дубох. III, выд. Таварыства Беларускай Асьветы, друкарня Левіна, 62 с., 1000 ас.

Косаўскі J (? — *Рэд.*). Для бліжніх. II, выд. “Самапомач”, друкарня “Скарына”, 55 с, 1000 ас.

Луцкевіч А. Беларускі музэй імя І. Луцкевіча. VII, друкарня Левіна, 16 с.

N.K. 31–šy Mižnarodny Eŭcharystyčny Kanhres. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 55 s.

Навіна А. Галоўныя кірункі ў беларускай паэзіі. VI, друкарня Левіна, 20 с.

Navicki K. Što robić urad u baraćbie z kryzysam. V, drukarnia Znamiaroŭskaha, 16 s., 5000 as.

Пецюкевіч М. Увагі дзеля запісаваньня беларускае народнае творчасьці і абрадаў. VI, выд. Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ у Вільні.

Rodzievič L. Sceničnyja tvory. II, vyd. J. Najdziuk, drukarnia “Skaryna”, 30 s., 1000 as.

Ruščaniec J. Zorka–ideja. II, vyd. BIHiK, drukarnia “Skaryna”, 24 s., 1000 as.

Stankievič A. Kastuś Kalinoŭski, “Mužyckaja Praŭda” i ideja niezaležnaści Biełarusi. V, vyd. Biełaruski Narodny Kamitet, Drukarnia “Skaryna”, 63 s., 1000 as.

Станкевіч Я. Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом. VI, друкарня Левіна, 33 с.

Шкялёнак М. У 300–я ўгодкі сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі. V, друкарня Левіна, 30 с., 500 ас.

## 1934

Aniśko D. Dla čyjho dabra! (Da spravy biełaruskaj movy ŭ kaściele.) IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 15 s., 600 as.

Babroŭski A. Jak palepšyć zyćcio sialanstva. V, drukarnia Laŭkoviča, 16 s., 600 as.

Баўтручок — беларускі народны твор. III, выд. Знамяроўскага, друкарня “Zorza”, 16 с., 400 ас.

Bylina J. Na pokuci. Bajki i roznyja vieršy. III, vyd. BIHiK, drukarnia “Skaryna”, 72 s., 1000 as.

Гарадоцкі А. Як Беларуская Хадэцыя гандлюе крывёю рабочых і сялян. V, выд. КПЗБ, 31 с.

Kempijski Tomaš. Śledam za Chrystusam. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, Lvoŭ—Vilnia, 288 s., 1000 as.

Машара М. Вось тут і зразумей. II, выд. Таварыства Беларускай Асьветы, друкарня Левіна, 29 с., 300 ас.

Машара М. Вясельле. III, выд. Таварыства Беларускай Асьветы, друкарня “Скарына”, 19 с., 300 ас.

Машара М. На сонечны бераг. III, выд. С. Глякоўскага і Я. Найдзюка, друкарня “Скарына”, 78 с., 500 ас.

Машара М. Сьмерць Кастуся Каліноўскага. III, выд. С. Глякоўскага і Я. Найдзюка, друкарня “Скарына”, 19 с., 800 ас.

Stapovič K. Hołas dušy. Knižka da nabaženstva. IV, vyd. BKW, drukarnia “Skaryna”, 317 s., 3000 as.

Tatarynovič P. Šlacham dzivaŭ i ŭražańniaŭ. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 72 s., 500 as.

Улад–Ініцкі. Апавяданьні. III, выд. Знамяроўскага, друкарня “Zorza”, 48 с., 1000 ас.

## 1935

Advažny V. Hanuliny kłopaty. III, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 64 s.

Advažny V. Kazka ab rybaku i rybcy. III, vyd. S. Hlakoŭski i J. Najdziuk, drukarnia “Skaryna”, 29 s., 1000 as.

Advažny V. Chłapiec. III, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 242 s., 1000 as.

Aniśko D. Da biełaruskaha narodu. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 39 s., 400 as.

Бажанаў. Шустрая бабулька. II, выд. М. Шчасны, 32 с.

Hrynkievičy S. i J. Rady chvorym i zdarovym. Č. 1, VII, vyd. “Bieł. Krynicy”, drukarnia “Skaryna”, 119 s., 1000 as.

Зборнік “Роднага Краю” за 1934 г. VII, выд. Таварыства Беларускай Асьветы, друкарня Левіна, 128 с.

Казлоўшчык У. Шляхам змаганьня. III, выд. “Новы Шлях”, друкарня “Скарына”, 62 с., 500 ас.

Karalenka M. Zachodniaja Biełaruś jak abšar faŭnistyčnych dośledaŭ. VII, vyd. Biełaruski Studencki Źviaz, druk Handlova–pramysłovaha Kaaperatyvu, 8 s., 200 as.

Karalenka M. Majovy chrušč i sposaby baraćby ź jim. VII, vyd. “Samapomač”, drukarnia “Skaryna”, 12 s., 500 as.

Купала Я. Шляхам жыцьця. III, выд. БІГіК, друкарня “Скарына”, 269 с, 1000 ас.

Машара М. На прадвесьні. III, выд. С. Глякоўскі і Я. Найдзюк, друкарня “Скарына”, 96 с., 600 ас.

Officium Najśviaciejšaj Dzievy Maryi. IV, vyd. BKV, drukarnia “Skaryna”, 16 s.

Праваслаўны малітваслоў на царкоўна–славянскай і беларускай мове. IV, Сынадальная друкарня, Варшава, 48 с., 2000 ас.

Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. V, выд. “Шлях Моладзі”, друкарня “Скарына”, 128 с., 600 ас.

Станкевіч А. Прафэсар Браніслаў Эпімах–Шыпіла. V, выд. БІГіК, друкарня "Скарына", 23 с., 500 ас.

Станкевіч Я. Апытальнік да зьбіраньня дыялектычных і некаторых агульных асаблівасьцеў беларускага (крывіцкага) языка. VI, выд. Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ у Вільні, 48 с., 500 ас.

Stapovič A. Za Baćkaŭščynu. Śpieŭnik. II, vyd. BIHiK, drukarnia "Skaryna", 24 s., 1000 as.

Tarasevič J. Biełarusy u śviatle praŭdy. IV, vyd. "Chr. Dumki", drukarnia "Skaryna", 40 s., 300 as.

Uspamin z Kalvaryi. IV, vyd. BKV, drukarnia "Skaryna", 23 s., 1000 as.

Цёшча ў дом — усё ўверх дном. II, выд. Тэатральная Бібліятэчка, друкарня Клецкіна, 37 с., 500 ас.

## 1936

Акінчыц Ф. Аграрна–коопэратыўная палітыка будучыні. V, выд. "Новы Шлях", друкарня "Скарына", 36 с., 500 ас.

Божая ліра. Хрысьціянскія духоўныя песьні. IV, выд. "Southern Trade", 204 ас.

Hareckaja L. Rodny kraj. I, vyd. kniharni "Nadzieja", drukarnia Bajeŭskaha, 96 s., 1000 as.

Hrynkievič S. Aśvieta. VI, vyd. "Bieł. Krynicy", drukarnia "Skaryna", 55 s.

Ільляшэвіч Х. Захварбаваныя вершы. III, друк Гандлёва–прамысловага каапэратыву, 30 с., 500 ас.

Лёкай на гадзіну. II, выд. Тэатральнай Бібліятэчкі, друкарня Клецкіна, 23 с., 500 ас.

Машара М. Мамчына горка. III, выд. "Калосьсе", друкарня "Скарына", 56 с., 1000 ас.

Машара М. Чорт з падпечча. II, 24 с.

Мілючанка М. Грамадзкая і літаратурная дзейнасьць Цёткі. VI, выд. "Шлях Моладзі", друкарня "Скарыны", 16 с., 500 ас.

Паўловіч С. Першая навука Закону Божага зь беларуска–славянскім букваром. IV, Сынадальная друкарня, Варшава, 164 с.

Паўловіч С. Першыя зерняткі. I, выд. Я. Малецкі, друкарня "Скарына", 96 с., 4000 ас.

Паўловіч С. Сьвяшчэнная гісторыя Новага Завету. IV, Сынадальная друкарня, Варшава, 152 с., 3000 ас.

Rutkoŭski F. Zabojstva ŭ domie Nr 37. II, drukarnia "Skaryna", 16 s., 1100 as.

Станкевіч А. З жыцьця і дзейнасьці К. Сваяка. V, выд. "Калосьсе", друкарня "Скарына", 32 с., 500 ас.

Станкевіч Я. Зьмена граматыкі беларускага языка ў БССР. VI, друкарня Баеўскага, 16 с., 1000 ас.

Сучасныя маладажоны, водэвіль паводле Н.П. Краснова. II, 14 с.

Танк М. На этапах. III, выд. В. Труцько, друкарня Баеўскага, 127 с., 1000 ас.

Tarasevič J. Na Baćkaŭščynu. VII, vyd. "Chr. Dumki", drukarnia "Skaryna", 120 s.

## 1937

Аляхновіч Ф. У капцюрох ГПУ. V, выд. аўтара, друкарня Баеўскага, 158 с., 2000 ас.

Baba Jeŭka, dzied Tamaš i inšyja biełaruskija narodnyja pieśni. II, drukarnia "Skaryna", 31 s.

Barovič J. Ab sadoch i hryboch. VII, vyd. "Biełpres", drukarnia "Skaryna", 32 s., 900 as.

Беларускія (крывіцкія) народныя песьні і казкі. III, выд. Я. Станкевіча, друкарня Гандлёва–прамысловага каапэратыву, 32 с., 380 ас.

Vałakos. Try daktary na adnu plamku. II, vyd. Teatralnaj Bibliatečki, drukarnia "Skaryna", 28 s.

Васілёк М. Зь сялянскіх ніў. III, выд. Р. Шырма, друкарня Баеўскага, 32 с., 1000 ас.

Васілеўскі А. Беларускі соньнік. VII, выд. кнігарні С. Станкевіча, друкарня “Dzielowa”, 78 с., 100 ас.

Vasiłčenka S. Zyla karalevič. II, drukarnia “Marianum”, 27 s., 500 as.

Гадоўля авец. VII, выд. “Белпрэс”, друкарня “Скарына”, 16 с.

Haspadarski zbornik. Č. 1, VII, vyd. “Biełpres”, drukarnia “Skaryny”, 16 s.

Грынкевіч С. У братоў украінцаў. VII, выд. “Пагоня”, друкарня “Скарына”, 88 с., 600 ас.

Kołas J. Sceničnyja tvory. II, vyd. Teatralnaj Biblijatečki, drukarnia “Marianum”, 32 s., 500 as.

Lavonicha i inšyja pieśni. II, drukarnia “Skaryna”, 16 s.

Машара М. З–пад стрэх саламяных. III, выд. “Белпрэс”, друкарня “Скарына”, 112 с., 500 ас.

Машара М. Лёгкі хлеб. II, выд. “Bieł. Krynicy”, друкарня “Скарына”, 63 с., 1000 ас.

Paŭłovič S. Zasieŭki. Biełaruski lemantar dla chatniaha navučańnia. I, vyd. “Biełpres”, 88 s., 2000 as.

Pieraškoda (operetka). II, vyd. Teatralnaj Biblijatečki, drukarnia “Skaryna”, 66 s.

Пятроўскі Я. Нядзельная школа, яе сутнасьць і гісторыя. IV, выд. аўтара, друк Гандлёва–прамысловага каапэратыву, 24 с., 500 ас.

Rešać J. Śviatyja. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, Vilnia—Lvoŭ, 122 s.

Saksahanskaja K. Abrazki žyćcia. II, vyd. Teatralnaj Biblijatečki, drukarnia “Marianum”, 14 s., 500 as.

Stankievič A. Mahnušeŭski–Paŭluk Bahrym–Babroŭski (Da vytokaŭ biełaruskaha adradžeńnia). V, vyd, “Biełpres”, drukarnia “Skaryna”, 45 s., 600 as.

Станкевіч Я. Повесьці і апавяданьні беларускіх летапісцаў. VI.

Танк М. Журавінавы цьвет. III, выд. Р. Шырма і Ф. Стацкевіч, друкарня Левіна, 80 с., 1000 ас.

Танк М. Нарач (паэма). III, выд. “Калосьсе”, друкарня “Скарына”, 100 с., 200 ас.

Čamu–ž nam nia pieć. II, drukarnia “Skaryna”, 16 s.

Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску. VI, выд. Я. Станкевіч, С. Глякоўскі, Я. Хвораст, А. Шукелойць, друкарня “Скарына”, 18 с., 500 ас.

## 1938

Ajer A. Bosyja na lodzie. V, vyd. Znamiaroŭskaha, 24 s.

Bylina J. Vybary staršyni. II, drukarnia “Skaryna”, 16 s., 1000 as.

Выбарная ардынацыя ў самаўрад. V, выд. “Chr. Dumki”, друкарня “Скарына”, 31 с.

Hrynkievičy S. i J. Alkahalizm. VII, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 14 s.

Hrynkievičy S. i J. Rady chvorym i zdarovym. Č. 2, VII, vyd. “Šlach Moładzi”, drukarnia “Skaryna”, 80 s.

Клімовіч А. Садоўніцкая чытанка. VII, выд. “Самапомач”, друкарня “Скарына”, 84 с.

Наша песьня. Зборнік 15 беларускіх народных песьняў. II, выд. Р. Шырмы, друкарня “Скарына”.

Stankievič A. Božaje słova na niadzieli i śviaty. IV, vyd. BKV, drukarnia “Skaryna”, Vilnia—Lvoŭ, 372 s.

Stankievič A. Lekcyi i evanhelii na niadzieli i śviaty. IV, vyd. BKV, drukarnia “Skaryna”, Vilnia—Lvoŭ, 195 s., 500 as.

Станкевіч А. Лекцыі і эвангеліі на нядзелі і сьвяты. IV, выд. БКВ, друкарня “Скарына”, Вільня—Львоў, 195 с., 500 ас.

Станкевіч А. Міхась Забэйда–Суміцкі і беларуская народная песьня. VI, выд. “Ка-

лосьсе”, друкарня “Скарына”, 16 с., 600 ас.

Stankievič A. U češć 950–hodździa chryščeńnia Biełarusi. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 14 s., 1000 as.

Танк М. Пад мачтай. III, выд. Р. Шырмы, друк Багаткевіча і Труцькі, 110 с., 500 ас.

Uspamin z Kalvaryi pad Vilniaj. IV, vyd. druhoje BKV, drukarnia “Skaryna”, 40 s.

## 1939

Гаспадарскі зборнік. Ч. 2, VII, выд. А. Маркоўскі, 16 с.

Гаспадарскі зборнік. Ч. 3, VII, выд. А. Маркоўскі, 16 с.

Hrynkievičy S. i J. Rady chvorym i zdarovym. Č. 3, VII, vyd. “Šlach Moładzi”, drukarnia “Skaryna”, 78 s., 700 as.

Івэрс А. Песьні на загонах. III, выд. “Калосьсе”, друкарня “Скарына”, 32 с.

Omańkoŭska F. Pradka pad Kryžam. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 24 s.

Сазанскі В. Чаго патрабуе зямля. II, выд. “Самапомач”, друкарня “Скарына”, 28 с.

Сахараў С. Полацкі князь Усяслаў — беларускі народны асілак. V, выд. “Калосьсе”, друкарня “Скарына”, 16 с.

Stankievič A. Biełaruski chryścijanski ruch. V, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 272 s., 1000 as.

Станкевіч Я. Гісторыя беларускага языка. VI, выд. аўтара, 16 с.

Unuk V. Dobramu i Boh pamahaje. IV, vyd. “Chr. Dumki”, drukarnia “Skaryna”, 72 s.

Хмара С. Жураўлінным шляхам. III, выд. С. Сіняк, друкарня “Скарына”, 31 с., 500 ас.

Čatyry evanhelii i Apostalskija dziei. Pierakład i vyjaśnieńni ks. V. Hadleŭskaha. IV, arcydyjacezijalnaja drukarnia ŭ Vilni, 416 s.

*Пераклад зроблены паводле**:*
Turonek J. Książka białoruska w II Rzeczy Pospolitej. 1921—1939. Warszawa: Slawistyczny Ośrodek Wydawniczy, 2000.

* Кніга адрэцэнзавана. Гл.: Андранік Антанян. Беларуская кніга ў міжваеннай Польшчы // ARCHE. 2005. № 5. Рэцэнзэнт падаў сьпіс кніг, якія не паказаныя ў Дадатку да гэтае працы. Аднак і з улікам гэтага сьпісу індэкс беларускіх кніг, выпушчаных у 1921—1929 г., усё адно застаецца няпоўны. Так, напрыклад, не названыя брашуры А. Луцкевіча “Жыдоўскае пытаньне ў беларускай літаратуры” (1921; адбітка з “Нашае Думкі”) і “Вязьніца Адама Міцкевіча” (1923).
У асноўнай частцы гэтае працы загалоўкі кніг, выпушчаных лацінкаю, падаюцца ў кірылічнай графіцы, а прозьвішчы аўтараў — паводле сучаснага клясычнага правапісу. — *А.С.*

# Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939—1944)

## Уступ

Аднойчы ў 60–х гадох адзін вядомы дзяяч Беларускага грамадзка–культурнага таварыства на Беласточчыне і паважаны пэдагог у Бельску Падляскім пазычыў у свайго сябра Міколы Калядкі выдадзеную ў 1942 г. у Бэрліне кнігу “Гісторыя Беларусі ў картах”, пасьля чаго занёс яе ў павятовы камітэт Польскай аб’яднанай рабочай партыі (ПАРП) з даносам на Калядку за захоўваньне і распаўсюджваньне фашысцкай літаратуры. І хаця ў камітэце не змаглі разабрацца зь зьместам кнігі і ацаніць яе, але на ўсялякі выпадак Калядку выключылі з партыі. У той самы час згаданая кніга захоўвалася ў адкрытым фондзе ўнівэрсытэцкай бібліятэкі ў Варшаве й была даступная для ўсіх зацікаўленых.

Магчыма, гэты эпізод выклікае іранічную ўсьмешку ў грамадзян Беларусі, якія перажылі пасьляваенныя наступствы нямецкай акупацыі. “Толькі выключылі з партыі… — сказаў мой менскі калега, — дык гэта ж яшчэ ня так страшна, у параўнаньні з тым, што ў нас пагражала за такую літаратуру”. Многія нават адукаваныя людзі зьнішчалі, палілі кнігі і часопісы, выдадзеныя ў гады нямецкае акупацыі, а ў архівах і бібліятэках БССР яны захоўваліся ў закрытых фондах і былі даступныя бадай толькі для сьледчых органаў і выкрывальнікаў “ворагаў народу”.

На гэта ўплываў перш за ўсё час выпуску кнігі, а ня ейны зьмест. Таму “пад замок” траплялі кнігі савецкага ці заходнебеларускага выпуску як “Сымон–музыка” Якуба Коласа, “Беларускі правапіс” і “Беларуская граматыка” Браніслава Тарашкевіча і нават выдадзеная за царом–бацюшкам брашура Арцёма Музыкі “Прыгоды Панаса і Тараса”, якія былі перавыдадзеныя падчас вайны. Кнігі, што выйшлі пад нямецкім кантролем, былі асуджаныя на небыцьцё. Пра гэта сьведчылі манаграфіі Аляксандры Бэргман і Арсеня Ліса пра Б. Тарашкевіча, у якіх замоўчвалася шостае выданьне яго “Беларускай граматыкі” (1943 г.).

У такіх умовах доўгі час не магло быць гутаркі пра вывучэньне непадкантрольнай савецкім уладам выдавецкай прадукцыі пэрыяду II сусьветнай вайны. Маўчалі ня толькі беларускія савецкія гісторыкі, але і эмігранты, якія ў ваенныя гады бралі ўдзел у выдавецкіх працэсах. Бадай усе яны ўжо адыйшлі на той сьвет, і толькі нямногія пакінулі для гісторыі годныя ўвагі ўспаміны пра сваю выдавецкую дзейнасьць.

Толькі ў 90–я гады ўзьніклі ўмовы для навуковага вывучэньня і публікацыі гісторыі выдавецкага руху ваеннага часу, чаму спрыялі крах камуністычнай ідэалёгіі, распад СССР і рассакрэчаньне беларускіх бібліятэк і архіваў. У 1996 г. была выдадзена невялікім накладам (300 асобнікаў) салідная манаграфія Сяргея Жумара “Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны”. На шчасьце, зьмест кнігі С. Жумара не адпавядае яе загалоўку, бо аўтар разгледзеў становішча беларускай прэсы таксама ў Літве, Беластоцкай акрузе і ў Нямеччыне, у выніку чаго манаграфія атрымала комплексны характар.

Затое не шанцавала гісторыі кнігі. Праўда, у 90–я гады былі перавыдадзены ў Менску скарочаная кніга Язэпа Найдзюка “Беларусь учора і сяньня”, як на зьдзек спалучаная з успамінамі яго асабістага ворага Івана Касяка, зборнік вершаў Тодара Лебяды “Песьні выгнаньня”, Янкі Станкевіча “Маленькі маскоўска–беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразэолёгічны”; “Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску” і, магчыма, іншыя выданьні ваеннага часу, аднак комплекснае вывучэньне гэтага пытаньня чакала дасьледчыка.

Прапанаваная праца ёсьць бадай першай спробай вывучэньня гісторыі беларускай кнігі пэрыяду другой сусьветнай вайны. У ёй улічаны кнігі, якія зь верасьня 1939 г. і да канца 1944 г. (у 1945 г. яны ўжо не выдаваліся) выпускаліся пад кантролем нямецкіх уладаў як на акупаваных тэрыторыях (Беларусь, Літва, Латвія, Беластоцкая акруга, генэральнае губэрнатарства*), так і ў самой Нямеччыне ўлучна з пратэктаратам Багемія і Маравія, далучаным да яе на падставе вымушанага нямецка–чэхаславацкага пагадненьня.

На гэтых тэрыторыях у той час існавалі разнастайныя ўмовы для выдавецкай дзейнасьці: палітыка нямецкіх уладаў, грамадзкі попыт на кнігу, наяўнасьць аўтараў і выдаўцоў, іх фінансавыя магчымасьці, варункі паліграфіі і распаўсюджаньня выданьняў. Да таго ж, гэтыя ўмовы зь бегам часу зьмяняліся ў залежнасьці ад стану ўзаемадачыненьняў Нямеччыны і СССР: адныя яны былі ў пэрыяд нямецка–савецкага супрацоўніцтва (з жніўня 1939 г. да 22 чэрвеня 1941 г.), а іншыя пасьля нашэсьця Нямеччыны на Савецкі Саюз. Пастаянным фактарам была толькі нямецкая цэнзура, хаця і ў гэтым выпадку былі пэўныя адрозьненьні. Найбольш жорсткая яна была ў генэральнай акрузе Беларусі, а адносна лагоднай — у самой Нямеччыне.

Зыходным пунктам дасьледаваньня і асноўнай падставай аналізу выдавецкіх працэсаў ёсьць каталёг кніг і брашур. Яго апрацоўка патрабавала шматгадовай карпатлівай працы. Ніводная бібліятэка, як у Беларусі, так і за яе межамі, не імкнулася пасьля вайны стварыць па магчымасьці поўны фонд выданьняў, якія выпускаліся пад кантролем нямецкіх уладаў. Як вынік, у лепшым выпадку, сёньня можна адшукаць у паасобных бібліятэках ці архівах толькі невялікую колькасьць гэтых выданьняў. Некаторыя зь іх, магчыма, беззваротна страчаныя або захоўваюцца ў прыватных калекцыях.

Пачатак быў зроблены даволі даўно. Пасьля сьмерці варшаўскага кнігалюба Пятра Ластаўкі ў 1968 г. мне пашанцавала купіць усю яго калекцыю — блізу 20 беларускіх кніг, выдадзеных у ваенны час у Бэрліне, Варшаве і Менску. Пазьней дзякуючы прыхільнасьці і даверу іншых аматараў кнігі ў Варшаве, Вільні і на эміграцыі мая прыватная бібліятэка час ад часу папаўнялася новымі набыткамі. Аднак доўгі час яны трактаваліся ня больш як бібліяграфічная рэдкасьць.

Актыўныя пошукі кніг пачаліся толькі ў 90–я г., гэтым разам ужо з акрэсьленай мэтай апрацоўкі іх каталёгу. Яны праводзіліся ў бібліятэках Менску, Варшавы, Вільні, Рыгі, Прагі і Лёндану, а таксама ў Беларускім дзяржаўным архіве (цяпер Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусі) і Беларускім дзяржаўным архіве–музэі літаратуры і мастацтва ў Менску. Некаторыя выданьні адшуканыя ў прыватных калекцыянэраў.

Усяго выяўлена 117 кніг і брашур, зь якіх каля 80% апісана ў каталёгу на падставе агледзін арыгіналу ці яго ксэракопіі. Астатнюю частку складаюць выданьні, якіх пакуль што не давялося бачыць. Яны апісаны на падставе зьвестак, апублікаваных у прэсе, — “Беларускай Газэце”, “Голасе Вёскі”, “Раніцы”, “Новай Дарозе” і іншых пэрыёдыках.

Кнігі беларускіх аўтараў і выдаўцоў даволі часта апісваліся, рэклямаваліся ці рэцэнзаваліся ў тагачаснай прэсе. З гэтай прычыны пададзеная ў каталёгу іх колькасьць, спадзяемся, блізкая да поўнай дакладнасьці. Але засталося некалькі пытальнікаў. У прыватнасьці, ня высьветленыя бібліяграфічныя дэталі баранавіцкага буквара “Зорка” і кнігі прафэсара Калыньша “Смалакурэньне”. Таксама невядома, ці “Арытмэтыка” Зоф’і Дабрынскай, якая зь лета 1943 г. друкавалася ў Рызе, выйшла да прыходу Чырвонай Арміі.

Затое выпуск нямецкіх беларускамоўных выданьняў адзначаўся ў газэтах надзвычай рэдка. Так, нічога не паведамлялася аб прапагандысцкіх брашурах, якія выпускала “Вінэ-

* Генэральнае губэрнатарства (генэральная губэрня) — адміністрацыйна–тэрытарыяльная адзінка, створаная на падставе дэкрэту Гітлера ад 12 кастрычніка 1939 г., якая ўлучала тэрыторыі міжваеннай Польшчы, што не ўвайшлі непасрэдна ў склад нямецкага Райху. Першапачаткова складалася з Кракаўскага, Люблінскага, Радамскага і Варшаўскага дыстрыктаў, у жніўні 1941 г. у склад Генэральнага губэрнатарства ўвайшоў Галіцыйскі дыстрыкт. — *А.П.*

та”, афіцыйны орган нямецкай прапаганды (гл. каталёг, № 105—117). Таму, на нашу думку, колькасьць гэтых выданьняў магла быць большая, чым паказана ў каталёгу.

У каталёг ня ўключаны пэрыядычныя выданьні: газэты, часопісы, календары, нават калі іх выпуск спыняўся на першым нумары. Таксама ня ўключаны геаграфічныя карты, непэрыядычныя ўлёткі, плякаты і непагінаваныя ілюстраваныя складанкі. Кніга, выдадзеная двума алфавітамі (кірыліцай і лацінкай), лічыцца як дзьве кнігі. Такіх выданьняў было ўсяго два: “Беларускі правапіс” Антона Лёсіка і “Кароткі малітаўнік для беларусаў–каталікоў”.

Пры апісаньні кнігі браліся пад увагу наступныя бібліяграфічныя дэталі: прозьвішча ці псэўданім аўтара, поўны загаловак, месца і год выпуску, выдавец, друкарня, аб’ём, фармат, наклад і цана. Таксама пададзеныя месца захаваньня кнігі, першая прэсавая інфармацыя аб яе выпуску і рэцэнзія. Аднак з увагі на недаступнасьць некаторых выданьняў і недастатковую інфармацыю, якая падавалася на вокладках кнігі і ў газэтах, часта было немагчыма падаць усе жаданыя бібліяграфічныя зьвесткі.

Сумнай спэцыфікай тагачасных беларускіх выданьняў была адвольнасьць і разнастайнасьць алфавітных сыстэмаў, непасьлядоўнасьць правапісу і тэрміналёгіі. Нават у выданьнях, здавалася, найбольш кампэтэнтнага ў галіне мовазнаўства школьнага інспэктарату часам стасавалася “школ”, а часам — “школаў”. Гэтае пытаньне ўзьнікла пры апісаньні кніг у каталёгу, аднак уніфікацыя ўсяго запісу на базе тагачаснага ці сучаснага правапісу выглядала б недарэчна. З гэтай прычыны прозьвішчы аўтараў, загалоўкі кніг і назвы газэт падаюцца ў арыгінальнай форме, а іншыя бібліяграфічныя дэталі — згодна з сучасным правапісам. На жаль, і гэты спосаб не гарантуе поўнай пасьлядоўнасьці і ня робіць добрага ўражаньня.

Кніга разьдзелена на некалькі частак. У першым разьдзеле пададзеныя ў храналягічным парадку ініцыятывы і зьдзяйсьненьні аўтараў і выдаўцоў на ўсіх падкантрольных нямецкім уладам тэрыторыях.

Гэта нібы гістарычны агляд кнігадрукаваньня на фоне вонкавых і ўласна беларускіх умоў. У гэтым разьдзеле, акрамя выданьняў, што выйшлі, улічаны творы, якія, паводле прэсавых зьвестак, пасьляваенных успамінаў і іншых крыніцаў, былі падрыхтаваныя да друку, але ў выніку ваенных апэрацыяў не пабачылі сьвету.

Увесь другі разьдзел займае каталёг кніг і брашур. Тэматычная структура выданьняў і іншыя аналітычныя высновы разглядаюцца ў наступным разьдзеле. Урэшце, у заключэньні прыведзены палітычныя аспэкты кнігадрукаваньня і лёсы яго ўдзельнікаў. Кнігу завяршаюць кароткія біяграмы аўтараў, складальнікаў, выдаўцоў і іншых дзяячоў выдавецкага руху, іх здымкі, а таксама ілюстрацыі вокладак найбольш цікавых кніг*.

Аўтар лічыць сваім прыемным абавязкам выказаць падзяку Ганьне Запартыцы, дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіву–музэю літаратуры і мастацтва, айцу Аляксандру Надсану, дырэктару Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, Людміле Рабок, загадчыцы беларускага аддзелу Нацыянальнай бібліятэкі ў Менску, Здэнцы Рахунковай, дырэктару Славянскай бібліятэкі ў Празе, В. Ціхаміравай, галоўнаму бібліёграфу Нацыянальнай бібліятэкі ў Рызе, а таксама Алегу Гардзіенку, Лене Глагоўскай, Алесю Жынкіну, Валянціне Панько, Генадзю Сагановічу, Антону Шукелойцю, Язэпу Янушкевічу за іх канкрэтную дапамогу ў стварэньні гэтай кнігі.

## 1. Аўтары і выдаўцы

### 1.1. Пэрыяд нямецка–савецкага супрацоўніцтва

Да жніўня 1939 г. у нямецкіх плянах ваенных апэрацыяў супраць Польшчы бралася пад увагу магчымасьць арганізаваць на беларускіх і ўкраінскіх тэрыторыях гэтай дзяр-

* Пры перавыданьні гэтай працы не было тэхнічнай магчымасьці зьмясьціць гэтыя вокладкі. — *Рэд.*

жавы дывэрсійныя дзеяньні, якія павінны былі палегчыць задачы Вэрмахту. З такой мэтай прадугледжвалася выдаваць для насельніцтва адпаведную прапагандысцкую літаратуру на беларускай і ўкраінскай мовах.

Аднак пасьля заключэньня 23 жніўня 1939 г. савецка–нямецкага пакту аб ненападзе і дамовы аб разьмежаваньні сфэры інтарэсаў СССР і Нямеччыны ў Польшчы ўжо не было патрэбы прапагандысцкай актывізацыі заходнебеларускага і заходнеўкраінскага насельніцтва, якое далучалася да СССР. Зьмянілася становішча і ў Нямеччыне. 25 жніўня, г.зн. літаральна праз два дні пасьля заключэньня пакту, усе пасты нямецкай паліцыі на тэрыторыі гэтай дзяржавы атрымалі дырэктыву начальніка гестапа, якая забараняла існуючым у Нямеччыне расейскім, украінскім, казацкім і каўкаскім эмігранцкім арганізацыям і іх сябрам выказваць вусна ці пісьмова варожае стаўленьне да Савецкага Саюзу, ладзіць публічныя мерапрыемствы, выкарыстоўваць нацыянальныя сьцягі і адзнакі[1]. У дырэктыве ня згадваліся беларускія арганізацыі, якія тады яшчэ не існавалі.

Загад паліцэйскіх уладаў адносіўся таксама да рэдакцыяў нямецкіх газэт, часопісаў і кніжных выдавецтваў. У выніку, з восені 1939 г. да чэрвеня 1941 г. у Нямеччыне выйшла толькі адна кніга — унівэрсытэцкая дысэртацыя Вэрнэра Концэ, прысьвечаная аграрным пытаньням у Вялікім Княстве Літоўскім, і толькі адзін невялікі артыкул Пэтэра Шайбэрта пра станаўленьне БССР, дарэчы, блізкі з тэзамі савецкай гістарыяграфіі[2]. Беларуская і ўкраінская праблематыка зьнікла з старонак навуковых выданьняў, такіх, як бэрлінскія “Jahrbücher für Geschichte Osteuropas” (выпускі 1940 і 1941 г.).

Пасьля заканчэньня польскай кампаніі ў нямецкіх лягерох апынулася вялікая колькасьць ваеннапалонных жаўнераў польскай арміі, а ў іх ліку некалькі дзясяткаў тысяч беларусаў. Для ваеннапалонных ваеннае міністэрства Нямеччыны выдавала на розных мовах газэты, сярод іх зь сьнежня 1939 г. і беларускамоўную “Раніцу”, якая да 22 чэрвеня 1941 г. старанна пазьбягала антысавецкіх выказваньняў.

У апошнім квартале 1939 г. выдавецтва ваеннага міністэрства *Die Wehrmacht* выпусьціла невялікую кнігу Ота Лемана “Нямецкія салдаты”, якая была першай беларускамоўнай кнігай, выдадзенай у разгляданы пэрыяд (1939—1944) пад кантролем нямецкіх уладаў. Кніга Лемана, багата ілюстраваная, прызначалася ў асноўным для ваеннапалонных і знаёміла іх з структурай нямецкай арміі, відамі войск, вайсковымі рангамі і г.д. Цяжка ў ёй дашукацца іншай прапагандысцкай ці ідэйнай накіраванасьці, тым больш антысавецкіх тэндэнцыяў. Як і газэты, кніга Лемана выдавалася на розных мовах ваеннапалонных, пра што сьведчыць яе польскамоўны варыянт “Żołnierz niemiecki”, які захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.

Пасьля выданьня кнігі Лемана нямецкія ўстановы доўгі час не выпускалі кніг па–беларуску. Іх выданьне было справай саміх беларусаў, наколькі гэта дазваляла дзяржаўная палітыка, тэхнічна–фінансавыя магчымасьці і наяўныя інтэлектуальныя сілы.

Тым часам на пачатку другой сусьветнай вайны на падкантрольных Нямеччыне тэрыторыях беларускія інтэлектуальныя сілы былі малакалькасныя, раскіданыя па розных гарадох і толькі пачыналі арганізоўвацца. Іх росту ў пэўнай ступені спрыяў прыток некалькіх дзясяткаў новых эмігрантаў зь Вільні, якія напярэдадні акупацыі Літвы Чырвонай Арміяй перасяліліся ў зону нямецкай акупацыі. У іх ліку: Мікола Шкялёнак прыехаў у Бэрлін, а Янка Станкевіч і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі — у Варшаву.

Акрамя ўрадавай установы, т.зв. Беларускага прадстаўніцтва, узьнікла ў Бэрліне дазволеная ўладамі грамадзкая арганізацыя “Беларускі камітэт самапомачы ў Немеч-

[1] Косик В. Україна і Німеччина у Другій світовій війні. Паріж—Львів—Нью Йорк, 1998. С. 486 (дакумэнт № 35).

[2] Conze W. Agrarverfassung und Bevölkerung in Litauen und Weissrussland. Leipzig, 1940; Scheibert P. Der Weg der Weissruthenen zur weissruthenischen Sowjetrepublik. Jomsburg, 1940. S. 191—196.

чыне" (далей БКС), якой да канца студзеня 1943 г. кіраваў праўнік Мікола Шкялёнак. Бэрлінскаму цэнтру падпарадкоўваліся філіі БКС у розных гарадох Нямеччыны, Пратэктарату і далучаных да райху польскіх заходніх тэрыторыях. Беларускі камітэт у генэральным губэрнатарстве не падпарадкоўваўся БКС, а дзейнічаў самастойна і, акрамя цэнтру ў Варшаве, меў дзьве філіі (дэлегатуры) у Кракаве і Белай Падляскай. Зь ліку гэтых камітэцкіх структураў толькі тры — у Бэрліне, Празе і Варшаве — адыгралі пэўную ролю ў гісторыі беларускага кнігадрукаваньня гэтага пэрыяду (жнівень 1939 — чэрвень 1941 г.).

Аднак, акрамя зьнешніх умоў, вырашальнае значэньне ў выдавецкай справе мелі не камітэцкія структуры, а канкрэтныя людзі, зацікаўленыя і здольныя ствараць, арганізоўваць выдавецкую дзейнасьць, распаўсюджваць кнігі і брашуры. Аўтары і выдаўцы, якія жылі ў Бэрліне, Празе і Варшаве і працавалі ў мясцовых камітэтах, ня раз супрацоўнічалі паміж сабой, а кнігі, якія апрацоўваліся ў адным горадзе, нярэдка друкаваліся ў іншым, што залежала ад мясцовых варункаў.

Спачатку на першым пляне апынулася Прага. Тут з даваенных гадоў жыло некалькі беларусаў, якія ў час вайны імкнуліся ўплываць на лёс бацькаўшчыны і, між іншым, арганізаваць выдавецкую дзейнасьць. Да гэтай групы належалі лекар Іван Ермачэнка, які заснаваў Беларускае выдавецтва ў Празе, лекар Іван Геніюш з жонкай Ларысай, інжынэры Васіль Русак і Аляксандар Калоша, філёляг Пётар Бакач і іншыя. Да праскай сябрыны прымыкалі Мікола Абрамчык, які жыў у Парыжы, і Янка Станкевіч, які з чэрвеня 1940 г. знаходзіўся ў Варшаве і даволі часта наведваў Прагу. Усе яны, акрамя паэткі Ларысы Геніюш, былі выпускнікамі чэхаславацкіх навучальных установаў і дзячамі беларускага студэнцкага руху, што ўплывала на іх супрацоўніцтва.

Пачынальнікам кнігадрукаваньня быў Пётар Бакач. У канцы 1940 г. ён скончыў апрацоўку папулярнага "Падручніка нямецкага языка для Беларусаў" і як яго дапаўненьня — кароткага нямецка–беларускага слоўніка. Быў гэта піянэрскі пачын, паколькі дасюль беларускія падручнікі нямецкай мовы нідзе не выдаваліся. У апрацоўцы падручніка супрацоўнічалі з аўтарам бэрлінскія дзячы М. Шкялёнак, Э. і А. Шкуткі і С. Саўчук, а праскі прадпрымальнік В. Русак аказваў Бакачу матэрыяльную дапамогу падчас яго працы над рукапісам. Магчыма, усе яны складалі выдавецкую групу, ад імя якой была напісана прадмова да гэтай кнігі.

Падручнікам П. Бакача зацікавілася бэрлінская выдавецкая фірма *Bernard und Graefe*, якая яго надрукавала ўва ўласнай друкарні ў красавіку або на пачатку мая 1941 г. Нягледзячы на даволі значны аб'ём (357 старонак) і наклад у некалькі тысяч асобнікаў, ні аўтар, ні выдавецтва не баяліся фінансавай рызыкі, паколькі запатрабаваньне на гэтую кнігу перавышала ўсе разьлікі і спадзяваньні. Як паведамлялася ў прадмове, ужо падчас друку падручніка была прададзена авансам амаль палова накладу.

Тысячы заказчыкаў у Нямеччыне і генэральным губэрнатарстве зь нецярплівасьцю чакалі выпуску падручніка П. Бакача. Пра гэта бэрлінская "Раніца" зьмясьціла 30 мая 1941 г. наступнае характэрнае паведамленьне:

> У справе „Падручніка нямецкага языка для Беларусаў" выясьняем: падручнік выйшаў з друку і рассылаецца фірмай адзіночным заказчыкам. Ня ўсе, аднак, заказчыкі маглі дастаць кніжку ў першых днях пасьля яе выхаду, бо заказаў набралася *больш за пару тысячаў* (падкр. намі. — *Ю.Т.*), а высланьне вымагае шмат тэхнічнае працы (упакоўка, выпаўненьне фрахтаў і г.д.). Як паведаміла нас фірма, дзе кніжка друкавалася *(Bernard und Graefe Berlin SW 68, Alexandrinnenstr. 134),* у бліжэйшым тыдні ўсе заказчыкі кніжку дастануць. Далейшыя заказы можна кіраваць у нашую Рэдакцыю або ў Беларускае прадстаўніцтва <...>. Хто мае намер кніжку выпісаць, хай сьпяшаецца з заказам, бо запасы яе ўжо невялікія, а калі выйдзе другое выданьне — няведама.

Аднак другога выданьня кніга П. Бакача не дачакалася, а яе аўтар пасьля вайны апынуўся ў савецкіх лягерох. Доўгі час ёю цікавіліся толькі спэцслужбы, на што паказвае кароткая пазнака, зьмешчаная на трэцяй старонцы вокладкі асобніка, які захоўваецца ў варшаўскай Нацыянальнай бібліятэцы: *16 VIII 1945 r. Dar Milicji Obywatelskiej m. st. Warszawy*[3].

Таксама з Прагай быў зьвязаны выдавецкі пачын, які ў 1941 г. ажыцьцяўляўся пад грыфам "Карэспандэнцыйных курсаў беларусаведы". Такія курсы арганізоўваліся падчас вайны ў некалькіх найбольш значных асяродках беларускай эміграцыі ў форме лекцыяў, галоўным чынам, па беларускай мове, літаратуры і гісторыі Беларусі, якія чыталіся для сяброў камітэтаў у Бэрліне, Варшаве, Лодзі і, магчыма, у іншых гарадох.

Асаблівасьцю курсаў беларусаведы ў Празе, дзе беларуская калёнія была нешматлікая, было тое, што, паводле задумы іх арганізатараў даклады на паасобныя тэмы павінны былі апрацоўвацца ў пісьмовай форме спэцыялістамі з розных гарадоў і выпускацца праскім выдавецтвам Івана Ермачэнкі ў выглядзе асобных брашур і рассылацца зацікаўленым беларусам у Нямеччыне, пратэктарацe і генэральным губэрнатарстве. З гэтай прычыны курсы называліся "карэспандэнцыйныя".

З такой мэтай напрыканцы 1940 г. была створана рэдакцыя курсаў, якой кіраваў Я. Станкевіч з дапамогай тэхнічнага супрацоўніка выдавецтва П. Бакача. У склад рэдакцыі ўваходзілі М. Абрамчык (Парыж), А. Мамчыц (Варшава) і М. Шкялёнак (Бэрлін), задачай якіх было распаўсюджваньне брашур сярод беларускіх эмігрантаў у Францыі і генэральным губэрнатарстве, а таксама ваеннапалонных у Нямеччыне. Апошнім сябрам рэдкалегіі быў старшыня Рады БНР В. Захарка, які ня браў удзелу ў рэдакцыйнай працы і лічыўся толькі ганаровым фігурантам.

З увагі на тагачасныя палітычныя ўмовы рэдакцыя праскіх курсаў беларусаведы абмяжоўвалася пытаньнямі, якія ня мелі антысавецкай накіраванасьці і не маглі быць прычынай падазрэньня нямецкіх уладаў у падтрымцы беларускага нацыяналізму. Таму не выпадкова публікацыі, выдаваныя пад грыфам курсаў, не закраналі актуальных пытаньняў беларускага нацыянальнага руху, але датычылі такіх "нэўтральных" пытаньняў, як мовазнаўства і раньняя гісторыя Беларусі.

Агулам рэдакцыя курсаў выдала чатыры брашуры, зь іх ліку дзьве выпускаліся часткамі ("лекцыямі"). Першай зь іх была ананімная брашура "Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску", надрукаваная на пачатку 1941 г. у праскай друкарні пад крыху іншым грыфам "Беларускія карэспандэнцыйныя курсы ў Празе". Брашура была перадрукам аднайменнай публікацыі, выдадзенай у 1937 г. у Вільні Янкам Станкевічам, ксяндзом Станіславам Глякоўскім, Янам Хворастам і Антонам Шукелойцем, зь якіх толькі Станкевіч меў мовазнаўчую адукацыю і несумненна быў яе аўтарам.

Пасьля выпуску гэтай брашуры выдаўцы рашылі выправіць назву курсаў на "Карэспандэнцыйныя курсы беларусаведы" і пад такім грыфам выпусьцілі ратататарнай тэхнікай тры чарговыя брашуры: Я. Станкевіча "Курс беларускае мовы" (у дзьвюх частках) і "Курс гісторыі Крывіі–Беларусі" (у трох частках), а таксама І. Ермачэнкі "Пранцы (сыфіліс)".

Такім чынам, мовазнаўчыя і гістарычныя працы Я. Станкевіча складалі пераважную частку выдавецкай прадукцыі праскіх курсаў.

Заслугоўвае ўвагі "Курс гісторыі Крывіі–Беларусі", у якім Я. Станкевіч упершыню ў беларускай навуцы выказаў погляд аб балта–славянскім этнагенэзе беларусаў. Гэты яго погляд толькі праз некалькі дзесяцігодзьдзяў ухвалілі вучоныя савецкай Беларусі[4].

[3] Дар грамадзянскай міліцыі сталічнага места Варшавы. — *А.С.*

[4] На падставе сваіх дасьледаваньняў да падобнае высновы прыйшоў расейскі археоляг Валянцін Сядоў (тэорыя балцкага субстрату). Улады БССР нэгатыўна паставіліся да гэтае тэорыі і ў 1973 г. не дазволілі правесьці ў Менску навуковую канфэрэнцыю пра этнагенэз беларусаў. — *А.С.*

Праца І. Ермачэнкі пра сыфіліс, вядома, магла быць карыснай для чытачоў, аднак ня мела нічога агульнага зь беларусаведай. Яе выпуск, напэўна, задавальняў лекарскія амбіцыі аўтара — шэфа Беларускага выдавецтва і праскага аддзелу БКС, але таксама сьведчыў пра тое, што ў рэдакцыйнай тэчцы не было больш адпаведных матэрыялаў.

Супастаўленьне гэтых выдавецкіх вынікаў, цікавых, мабыць, толькі для вузкага кола спэцыялістаў, з асабовым складам рэдкалегіі, у якую, акрамя Я. Станкевіча, уваходзілі такія дасьведчаныя дзеячы, як М. Абрамчык і М. Шкялёнак, наводзіць на думку, што "Праскія курсы" былі задуманыя як зручная фірма для наладжваньня неафіцыйных кантактаў эміграцкага актыву і выпрацоўкі канцэпцыі палітычнай дзейнасьці ўва ўмовах блізкай нямецка–савецкай вайны. На гэтым грунтавалася і супрацоўніцтва Я. Станкевіча з І. Ермачэнкам, якое неўзабаве працягнулася ў акупаваным немцамі Менску.

Тым часам, у другой палове 1940 г. Станкевіч, заснаваўшы ў Варшаве нелегальную Партыю беларускіх нацыяналістаў, стварыў перадумовы для будучых кантактаў з кіраўніцтвам польскага падпольля[5]. Адначасова ён заняўся падрыхтоўкай падручнікаў для беларускіх пачатковых школаў на бацькаўшчыне, якія пад яго кіраўніцтвам апрацоўвала варшаўская настаўніца Зоф'я Дабрынская.

Янка Станкевіч пазнаёміўся з З. Дабрынскай у другой палове 1940 г. у Беларускім камітэце ў Варшаве. Яна паходзіла з Дрысеншчыны, ведала беларускую мову, мела пэдагагічную адукацыю і настаўніцкі досьвед. Дабрынская прыняла прапанову Станкевіча і на працягу двух гадоў (1941—1942) апрацавала сем падручнікаў: два лемантары (кірыліцай і лацінкай), чытанку для другое клясы й чатыры арытмэтычныя задачнікі для I—IV клясаў. Малюнкі выконваў варшаўскі графік беларускага паходжаньня Гайкоўскі. Гэтую іх працу пэрыядычна аплочваў Я. Станкевіч[6].

Інфармацыя З. Дабрынскай аб апрацоўцы ў такі кароткі і неспрыяльны ваенны час сямі падручнікаў спачатку ўяўлялася малаверагоднай. І толькі пазьнейшыя пошукі ў газэтах ваенных гадоў і нядаўняя публікацыя лістоў Я. Станкевіча да К. Езавітава разьвеялі сумненьні[7]. Першы яе арытмэтычны задачнік быў надрукаваны ў 1942 г. у Празе, а два наступныя — у 1943 г. у Менску. Яшчэ адзін задачнік друкаваўся ў Рызе.

На заканчэньне агляду выданьняў гэтага пэрыяду спынімся на дзьвюх брашурах: У. Верес "Шляхом барацьбы Беларусі з Москвою" і У. Верас "Як створым нашую сілу".

Яны былі выдадзеныя ратататарнай тэхнікай без пададзенага месца і году выпуску і якіх–кольвечы іншых выдавецкіх дэталяў. Гэта адпавядала патрабаваньням нелегальнай публіцыстыкі, у сувязі з чым і прозьвішча аўтара можна лічыць псэўданімам. Паспрабуем расшыфраваць гэтыя загадкавыя брашуры.

Дапушчаныя ў адной зь іх правапісныя памылкі ("Верес", "Шляхом", "Москвою") і іх выпраўленьне ў другой паказвае, што найперш была выдадзена брашура "Шляхом барацьбы Беларусі з Москвою". Гэтая чарговасьць мае для нас істотнае значэньне для ўстанаўленьня часу выпуску брашур.

Так, у брашуры "Як створым нашую сілу" аўтар згадвае пра перамогу Нямеччыны над Польшчай і Францыяй (с. 3—4) і спадзяецца на разгром Савецкага Саюзу (с. 6), а гэта значыць, што яна выйшла ў другой палове 1940 г. (Францыя капітулявала 22.06.1940) або ў першай палове 1941 г. Аналіз тэксту другой брашуры "Шляхом барацьбы Беларусі з Москвою" дазваляе больш дакладна вызначыць гэты тэрмін. Зьмешчаныя ў ёй фразы "рашучая барацьба набліжаецца" ці "будзьце гатовыя да рашучай барацьбы" (с. 20) паказваюць на тое, што яна выйшла незадоўга да нападу Нямеччыны на СССР. Гэта дазваляе вызначыць час выданьня брашур на вясну 1941 г.

Несумненна, абедзьве брашуры былі выдадзеныя ў Бэрліне. На гэта паказвае, па–

[5] Туронак Ю. Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру. (С. 464—484 гэтага выданьня. — *Рэд.*)
[6] Інфармацыя З. Дабрынскай для аўтара з 1984 г.
[7] Лісты Я. Станкевіча да К. Езавітава // Спадчына. 1999. № 5—6. С. 55—68.

першае, якасьць паперы, аналягічная рататарным выданьням Бэрлінскага аддзелу БКС, такім як "Гісторыя Беларусі ў картах" Міколы і Ніны Абрамчыкаў і іншых, па–другое, машынапіс зроблены на машынцы з украінскім шрыфтам, якой праз адсутнасьць машынкі зь беларускім шрыфтам тады карысталіся ў бэрлінскім БКС.

"Як створым нашую сілу" — гэта тыповы для нямецкага нацыянал–сацыялізму пераказ асноваў грамадзкай дзейнасьці, арыенцірам якой былі ўласныя сілы, а не спадзяваньні на дапамогу звонку. Прапаганда гэтай ідэалёгіі, а таксама зьмешчаны ў брашуры "Шляхом барацьбы…" заклік да ўзброенай барацьбы "пад прапарам беларускага нацыяналізму" (с. 20) пераконваюць, што выдаўцом брашур была група Фабіяна Акінчыца — ідэоляга беларускіх нацыянал–сацыялістаў. Хто быў іх аўтарам — пытаньне менш істотнае. Мог ім быць сам Акінчыц ці нейкі яго супрацоўнік.

Верагодна, выпуск брашур У. Вераса быў інсьпіраваны нямецкімі службамі, але ў тагачаснай палітычнай сытуацыі нельга было выявіць іх выдаўцоў. Неўзабаве, калі пачалося наступленьне Нямеччыны на Савецкі Саюз, такая "кансьпірацыя" была лішняя.

## 1.2. Пасьля нашэсьця Нямеччыны на СССР

### Генэральная акруга Беларусь

Непасрэдна пасьля таго, як нямецкія войскі занялі Беларусь, на ўсім яе абшары было ўведзена ваеннае кіраваньне, якое ўзначаліў камандуючы тыламі групы армій "Цэнтар" генэрал Макс фон Шэнкендорф. Яму падпарадкоўвалася сетка палявых камэндатур, а ім, у сваю чаргу, — мясцовыя камэндатуры, якія ствараліся практычна ўва ўсіх гарадох і райцэнтрах.

Згодна з дырэктывамі Галоўнага камандаваньня Вэрмахту, ваеннае кіраваньне мела пераходны характар, зь цягам часу яго адміністрацыйныя функцыі мусілі пераняць цывільныя ўлады. Аднак у выніку неспрыяльнай сытуацыі на фронце армія перадала цывільным уладам толькі заходнюю частку Беларусі, а яе ўсходняя частка да канца акупацыі заставалася ў зоне ваеннага кіраваньня.

Форма акупацыйнага рэжыму была важным фактарам, які вызначаў магчымасьць выдавецкай працы. Армейскія службы прапаганды, якія функцыянавалі пры палявых камэндатурах, арганізоўвалі радыёвяшчаньне, выпуск газэт і плякатаў, але кнігавыдавецкая справа не была іх задачай — яна належала да кампэтэнцыі цывільнай улады. У такіх умовах не маглі мець посьпеху любыя ініцыятывы мясцовых дзяячоў, якім, у лепшым выпадку, удавалася наладзіць выпуск беларускамоўных дадаткаў да выдаваных Вэрмахтам расейскамоўных газэт. Дарэчы, у гарадох зоны ваеннага кіраваньня не было і значнай традыцыі кнігадрукаваньня, якое за савецкім часам канцэнтравалася галоўным чынам у Менску.

### Краёвае выдавецтва "Менск"

Цывільныя акупацыйныя ўлады мелі свае праблемы. Зь ліпеня 1941 г. дзейнічала ў Менску гарадзкая ўправа і падпарадкаваная ёй друкарня, таксама было заснавана Краёвае выдавецтва "Менск". Аднак галоўнай іх задачай было забесьпячэньне выпуску "Менскай Газэты", а ня кніг[8]. Генэральны камісар Вільгельм Кубэ, што прыбыў на пачатку верасьня 1941 г. у Менск, маляваў перад беларусамі сьветлыя пэрспэктывы; ён загадаў адчыніць школы і ў першым сваім рапарце ў Бэрлін заявіў: "Я намераны прысь-

[8] Жумарь С. Оккупационная печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны. Минск, 1996. С. 20.

вяціць маю асаблівую ўвагу клопатам пра беларускую культуру"[9].

Аднак за гэтымі словамі пакуль што ня йшлі ўчынкі. Нямецкія ўлады ў Бэрліне і Рызе, якія спадзяваліся на хуткую перамогу, не лічылі патрэбным сьпяшацца з вырашэньнем кнігавыдавецкай справы: яе арганізацыі, фінансаваньня, нагляду.

Але сьціплы пачатак быў зроблены. У той час, па сутнасьці, адзінай сфэрай выдавецкіх зацікаўленьняў нямецкай цывільнай адміністрацыі быў выпуск газэт, што, натуральна, патрабавала адзінага правапісу. Тым часам у гэтай галіне ўзьніклі праблемы, не сустраканыя на іншых тэрыторыях Остлянду. Рэдактары і супрацоўнікі рэдакцыяў не пагаджаліся з усходнебеларускім "бальшавіцкім" правапісам, і многія зь іх стасавалі свае правапісныя і лексычныя нормы. Шкодны хаос не спрыяў прэстыжу беларускай мовы як дзяржаўнай, што, у сваю чаргу, патрабавала неадкладна вырашыць справу правапісу.

З такой мэтай Краёвае выдавецтва "Менск" атрымала дазвол на выданьне "Беларускага правапісу" Б. Тарашкевіча, што і было зьдзейсьнена пад канец верасьня 1941 г. Гэта была першая кніжка, выпушчаная на тэрыторыі акупаванай Беларусі. "Правапіс" выйшаў вялікім накладам (20 тысяч асобнікаў) і прызначаўся галоўным чынам для рэдакцыяў газэт і школаў. Гэта было моцна скарочанае перавыданьне выпушчанага ў 1925 г. у Вільні падручніка правапісу, скампіляванага Радаславам Астроўскім паводле Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка. Выданьне "Правапісу" выклікала новыя спрэчкі, якія доўгі час працягваліся на старонках "Беларускай Газэты".

"Беларускі правапіс" быў адзінай кнігай, выпушчанай Краёвым выдавецтвам "Менск". Дарэчы, неўзабаве скончылася нібы незалежнае яго існаваньне. 16 кастрычніка 1941 г. выдавецтва было падпарадкавана Менскаму гарадзкому камісарыяту, а па нейкім часе аддзелу прэсы генэральнага камісарыяту Беларусі[10]. Справа заснаваньня кніжнага выдавецтва і далей адкладалася на пазьнейшы час, і толькі "Ўрадавыя весьнікі" час ад часу нагадвалі пра неабходнасьць атрыманьня дазволу ўладаў на кожнае друкаванае выданьне.

## Выданьні ксяндза С. Глякоўскага

У гэтых варунках была зьдзейсьнена прыватная ініцыятыва ксяндза Станіслава Глякоўскага, вядомага ў 30–х гадох выдаўца беларускай каталіцкай літаратуры ў Вільні. Зь ліпеня 1941 г. ён працаваў у Менску, рамантаваў касьцёлы, арганізоўваў беларускае каталіцкае душпастырства і разам з сваімі памочнікамі, маладымі сьвятарамі Дзянісам Мальцам і Казімерам Рыбалтоўскім, праводзіў катэхізацыю моладзі.

З увагі на вострую нястачу рэлігійнай літаратуры на пачатку сьнежня 1941 г. ён выдаў "Кароткі катэхізм для беларусаў–каталікоў" кс. Язэпа Рэшаця і невялікі "Кароткі малітаўнік для беларусаў–каталікоў". Абедзьве кнігі былі надрукаваны лацінкай. Катэхізмоўка Я. Рэшаця была поўным передрукам яе аднайменнага віленскага выданьня 1927 г., а малітаўнічак зьмяшчаў выбраныя тэксты з выдадзенай у 1934 г. у Вільні кніжкі да набажэнства "Hołas Dušy".

Цікава заўважыць, што вынікам ініцыятывы кс. С. Глякоўскага былі, на добры лад, ня дзьве, а тры кніжкі, бо, маючы на ўвазе моўныя асаблівасьці Ўсходняй Беларусі, ён выдаў "Кароткі малітаўнік" ня толькі лацінкай, але і кірыліцай. Калі да гэтага часу беларускамоўная каталіцкая літаратура друкавалася выключна лацінкай, то выданьне ў 1941 г. каталіцкага малітаўніка кірылічным алфавітам было абсалютнай навіной —

[9] Кубэ В. Ліст да А. Розэнбэрга ад 17.09.1941. Архіў новых актаў у Варшаве, александрыйскія мікрафільмы. Т—454, ролік 21/668.
[10] Жумарь С. Тамсама, с. 21.

першай у найноўшай гісторыі спробай алфавітнай уніфікацыі беларускамоўных канфэсійных выданьняў.

Усё ж гэты пачын кс. Глякоўскага, які сёньня ўхваляецца бадай усімі каталіцкімі выдаўцамі ў Беларусі, ня быў тады ім намераны. Вось што пра гэта пісаў аўтару 30 сакавіка 1996 г. Антон Шукелойць, у той час блізкі супрацоўнік кс. Глякоўскага:

> Кс. Ст. Глякоўскі быў вялікім энтуз'ястам лацінкі і ўсе аб'явы і лісты пісаў па беларуску лацінкай. Часта людзі менскія думалі, што пісана па нямецку і прыносілі да перакладу на беларускую мову. Але пры касьцеле на Кальварыі пасяліўся нелегальна ксёндз паляк, які выдаў прымітыўнай тэхнікай малітаўнік польскі кірыліцай. <…> Вось гэты факт выкарыстоўваньня кірыліцы польскімі ксяндзамі і прымусіў кс. Глякоўскага выдаць малітаўнік беларускі кірыліцай.

Выпуск кірылічнага варыянту малітаўніка меў трагічныя наступствы. У той час дзейнічала ў Менску група праваслаўных экстрэмістаў (Іван Касяк, Юліян Саковіч і іншыя), паводле якіх беларускія ксяндзы даўно чакалі, каб на развалінах рэлігійнага жыцьця ўва Ўсходняй Беларусі распачаць місіянэрскую працу і пасьля прыбыцьця ў Менск адразу яе разгарнулі, як сярод каталікоў, так і праваслаўных[11]. Пачуцьцё небясьпекі паглыбляла нават беларуская мова, якой яны карысталіся, бо Праваслаўная царква магла супрацьпаставіць адно традыцыйную расейшчыну. У такой атмасфэры кірылічны малітаўнік уяўляўся як доказ місіянэрскіх намераў кс. Глякоўскага сярод праваслаўных і прычыніўся да яго загубы[12].

З розных тэхнічных прычынаў няпроста было надрукаваць катэхізмоўку і лацінічны малітаўнік у Менску. Паколькі ў гарадзкой друкарні былі праблемы з шрыфтамі і паліграфістамі, набор лацінічных тэкстаў выконваўся ў Вільні, адкуль Язэп Найдзюк, які ўдзельнічаў у іх выпуску, прывозіў у Менск гатовыя да друку матрыцы. Толькі кірылічны варыянт малітаўніка мог быць поўнасьцю выкананы ў менскай друкарні.

Выданьні кс. С. Глякоўскага зьвяртаюць увагу адной цікавай асаблівасьцю. Вось жа, на вокладцы “Кароткага катэхізму” былі пададзены ўсе асноўныя біяграфічныя дэталі: прозьвішча аўтара, месца і год выпуску, выдавецтва і друкарня, што не выклікае сумненьняў у легальнасьці выданьня. Затое абодва малітаўнікі (лацінічны і кірылічны варыянты) нагадваюць нелегальныя публікацыі: на іх вокладках, акрамя загалоўка, не пададзены ніякія зьвесткі.

Паводле Найдзюка (ліст да аўтара ад 30.11.1980), яны былі надрукаваныя “не зусім легальна”. Якая была прычына гэтай паўлегальнасьці, дакладна невядома. Магчыма, генэральны камісарыят дазволіў выдаць усе прапанаваныя тэксты ў адной кнізе, а выдавец, не атрымаўшы цэнзурных засьцярог адносна зьместу і карыстаючыся дапамогай новага старшыні гораду Вацлава Іваноўскага, якому падпарадкоўвалася друкарня, надрукаваў катэхізм і малітаўнікі асобнымі кніжачкамі, зь якіх толькі адна магла быць выпушчана безь нежаданых наступстваў.

У выніку пасьля вайны ўзьніклі праблемы з ідэнтыфікацыяй малітаўнікаў. Наўрад ці хто лічыў іх падпольнымі выданьнямі, тым ня менш не было вядома хто, дзе і калі іх выдаў. Такія праблемы былі і ў аўтара, які ў 1984 г. атрымаў ад Міхаліны Татарыновіч лацінічны варыянт малітаўніка. І толькі інфармацыя Антона Шукелойца і дасланы ім ксэракс кірылічнага варыянту высьветлілі генэзу гэтых загадкавых кніг.

---

[11] А.М. (Апанас Мартос) Матэр'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы (Пэрыяд савецкай і нямецкай акупацыі Беларусі). Нямеччына, 1948. С. 135—136.

[12] Туронак Ю. Трагізм і загадкавасьць лёсаў. Да гісторыі беларускага каталіцкага душпастырства ў Менску. Гл.: С. 421—429 гэтага выданьня. — *Рэд.*

## Выданьні школьнага інспэктарату

Першы нясьмелы крок у галіне кнігадрукаваньня быў зроблены акупацыйнымі ўладамі напрыканцы 1941 г. у сувязі з аднаўленьнем працы школаў. 12 сьнежня міністэрства акупаваных усходніх абшараў выслала райхскамісарам Остлянду і Ўкраіны інструкцыю, у якой таксама забаранялася карыстацца савецкімі навучальнымі плянамі, падручнікамі і іншымі "палітычна тэндэнцыйнымі" дапаможнікамі. Інструкцыя рэкамэндавала мясцовым уладам забясьпечыць школы навучальным матэрыялам, які павінны былі стварыць аддзелы культуры генэральных камісарыятаў[13].

Агульныя прынцыпы акупацыйнай школьнай палітыкі, відаць, былі раней вядомыя В. Кубэ, і ён не марнаваў часу на завяршэньне бюракратычнай працэдуры. Ужо 7 кастрычніка 1941 г. для нагляду над працай школаў, што аднаўляліся, быў створаны школьны інспэктарат як інтэгральная частка генэральнага камісарыяту. Кіраўніком інспэктарату Кубэ прызначыў Ёзафа Сівіцу, сылескага немца, які ведаў польскую мову, а з часам нядрэнна вывучыў і беларускую[14]. Яму падпарадкоўваўся ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, які пад канец кастрычніка прыбыў з Бэрліна і быў прызначаны галоўным школьным інспэктарам.

Пад іх кіраўніцтвам працаваў т.зв. навуковы аддзел інспэктарату, першачарговай задачай якога была падрыхтоўка навучальных плянаў і праграм. Да гэтай працы запрасілі пэдагогаў, якія за два месяцы апрацавалі праграмы навучаньня ўсіх прадметаў для пачатковых школаў, што былі надрукаваныя на пачатку сьнежня 1941 г. у менскай друкарні ў форме паасобных брашур і перададзеныя акруговым і раённым школьным інспэктарам на іх першай канфэрэнцыі, якая адбылася 15—17 сьнежня 1941 г. у Менску.

Агулам надрукавалі 13 праграм навучаньня: беларускай і нямецкай моў, геаграфіі, гісторыі, грамадазнаўства, матэматыкі, музыкі і сьпеваў, прыродазнаўства, ручной працы, рысаваньня, фізыкі, фізычнага ўзгадаваньня моладзі, хіміі. Гэта, па сутнасьці, былі праекты праграм навучаньня і такімі заставаліся да канца акупацыі. Ува ўмовах нястачы школьных падручнікаў праграмы разам з часопісам "Беларуская Школа" сталі асноўнымі мэтадычнымі дапаможнікамі ў працэсе школьнага навучаньня. На пачатку 1942 г. стараньнем Інспэктарату была надрукаваная "Інструкцыя аб правядзеньні пераводаў з клясы ў клясу і аб выпускных экзамэнах у народных беларускіх школах".

Аднак ні праграмы, ні часопіс "Беларуская Школа", які з студзеня да сьнежня 1942 г. выдаваўся Інспэктаратам у дзьвюх частках — для настаўнікаў і вучняў, — не маглі замяніць школьных падручнікаў. Таму, пасьля таго, як навуковы аддзел Інспэктарату справіўся зь сьпешнай падрыхтоўкай навучальных праграм, перад ім паўстала важнейшае заданьне — апрацоўка і выпуск падручнікаў.

Паводле Язэпа Найдзюка, да кастрычніка 1942 г., г.зн. за першы год працы Інспэктарату, беларускія пэдагогі і спэцыялісты падрыхтавалі каля 20 падручнікаў, у тым ліку: лемантар, чытанку, выпісы зь літаратуры, правапіс, граматыку, арытмэтычныя задачнікі для I—V клясаў, падручнікі па геамэтрыі, гісторыі, прыродаведзе і гігіене[15]. Апрацоўваліся яны ня толькі ў Менску, але і ў Варшаве (Зоф'яй Дабрынскай), а таксама ў Вільні, якую на пачатку лютага 1942 г. наведалі Ё. Сівіца з В. Гадлеўскім і абмяркоўвалі з аўтарамі гэтае пытаньне[16]. Выглядае на тое, што аўтарскіх прапаноў было дастаткова.

[13] Міністэрства акупаваных усходніх абшараў. Дырэктыва для райхскамісараў Остлянду і Ўкраіны ад 12.12.1941. Архіў новых актаў у Варшаве. Александрыйскія мікрафільмы. Т–454, ролік 20/871.

[14] Найдзюк Я. Ліст да аўтара ад 18.09.1979 (архіў аўтара).

[15] Беларуская Газэта. 1942. 15 кастрычніка.

[16] Раніца. 1943. 22 сакавіка.

Аднак выпуск падручнікаў сутыкнуўся зь нечаканымі цяжкасьцямі, і ў 1941/42 годзе школы працавалі без падручнікаў. Затрымка нярэдка тлумачылася абставінамі ваеннага часу і патрабаваньнем міністэрства акупаваных усходніх абшараў дасылаць яму тэксты падручнікаў для праверкі і зацьвярджэньня[17]. Праўда, гэтае патрабаваньне ўскладняла працэдуру іх выпуску, але ня толькі яно было прычынай затрымкі. У прыватнасьці, дырэктыва міністэрства адносілася да ўсіх абшараў Остлянду, аднак выдаўцы літоўскіх, латыскіх і эстонскіх падручнікаў, хоць і непакоіліся, такіх цяжкасьцяў не адчувалі.

Затое Беларусь не магла абысьціся без спэцыфікі. Міністар акупаваных усходніх абшараў Альфрэд Розэнбэрг, які скептычна ацэньваў здольнасьць беларускага народу да самастойнага жыцьця, нечакана стаў прыхільнікам яго далучэньня да сям'і народаў "Новай Эўропы", чаму, на яго думку, павінна была спрыяць замена кірылічнага алфавіту на лацінку. Гэтая ідэя міністра прапагандавалася і яго падначаленымі ў Менску, у тым ліку і Сівіцам, які ўжо ў сьнежні 1941 г. пазнаёміў зь ёй удзельнікаў канфэрэнцыі школьных інспэктараў[18].

Неўзабаве ідэя стала дырэктывай для чыноўнікаў міністэрства і генэральнага камісарыяту ў Менску. 25 чэрвеня 1942 г. Розэнбэрг выдаў загад аб паступовым увядзеньні лацінкі ў народныя школы Беларусі: у 1942/43 г. яна ўводзілася ў першыя і часткова другія клясы, акрамя таго яе вывучэньне рэкамэндавалася і ў астатніх клясах пачатковых школаў[19].

Загад Розэнбэрга значна ўскладніў працу Інспэктарату: ніхто, нават Сівіца, ня быў упэўнены, якія падручнікі і якім алфавітам будуць дапушчаныя ў школы праз год ці два. Не было такой упэўненасьці ў бэрлінскім міністэрстве, якое магло загадаць пераклад дасланага тэксту з кірыліцы ў лацінку. Адначасова працягваліся бясконцыя спрэчкі паміж беларускімі прыхільнікамі першай і другой алфавітных сыстэм.

Іншай прычынай, якая стрымлівала выпуск падручнікаў, была недасканаласьць правапісу і тэрміналёгіі. Гэтае пытаньне імкнулася вырашыць створаная ў студзені 1942 г. у рамках Інспэктарату тэрміналягічная камісія, якая толькі ў сакавіку 1943 г. зацьвердзіла новы правапіс[20]. Акрамя таго, камісія апрацавала некалькі тэрміналягічных слоўнікаў, аднак ніводзін зь іх ня ўбачыў сьвету.

## Выдавецкія спробы БНС

У кастрычніку 1941 г. з Прагі ў Менск прыехаў Іван Ермачэнка, прызначаны А. Розэнбэргам кіраўніком Беларускай народнай самапомачы (БНС) — адзінай пакуль што дазволенай акупацыйнымі ўладамі грамадзкай арганізацыі ў Беларусі. 22 кастрычніка Кубэ і Ермачэнка выдалі адозву да насельніцтва, у якой абвяшчалі стварэньне БНС. Празь некалькі дзён "Менская Газэта" апублікавала яе статут, які, акрамя грамадзкай апекі і аховы здароўя, даваў БНС права арганізаваць культурную дзейнасьць, між іншым, выдаваць кнігі і часопісы.

Іван Ермачэнка быў перакананым прыхільнікам беларуска–нямецкага супрацоўніцтва і карыстаўся даверам і падтрымкай В. Кубэ. У ліпені 1942 г. Кубэ паклікаў яго ў свой штаб як мужа даверу, даручыў яму арганізацыю Беларускай самааховы і, як пісаў шэф паліцыі бясьпекі ў Беларусі Эдуард Штраўх, быў намераны прызначыць І. Ермачэнку

[17] Міністэрства акупаваных усходніх абшараў. Дырэктыва для райхскамісараў Остлянд і Ўкраіна ад 8.03.1942. Архіў новых актаў у Варшаве. Александрыйскія мікрафільмы. T–454, ролік 20/907.

[18] Беларуская Школа. 1942. № 1. Студзень.

[19] Тамсама. 1942. № 5. Верасень—кастрычнік.

[20] Жумарь С. Тамсама, с. 223.

на пост прэм'ера будучай беларускай дзяржавы[21].

Пазыцыя І. Ермачэнкі абумовіла дзеяньні яго нядаўняга супрацоўніка па праскіх курсах беларусаведы Я. Станкевіча, які каля 20 сьнежня 1941 г. прыехаў з Варшавы ў Менск. У студзені 1942 г. І. Ермачэнка паклікаў Я. Станкевіча на пасаду свайго намесьніка і прызначыў яго кіраўніком Менскага акруговага аддзелу БНС. Адначасова ён далучыўся да супрацоўнікаў школьнага інспэктарату, у якім працаваў над падрыхтоўкай падручнікаў і тэрміналёгіі. Аднак у выніку канфлікту з БНСаўскім дзеячом Іванам Касяком і Ё. Сівіцам, якога ён абвінавацііў у стрымліваньні выпуску падручнікаў, Станкевіч быў вымушаны пакінуць гэтыя пасады, і толькі заступніцтва Ермачэнкі выратавала яго ад арышту[22].

Аднак канфлікт зь Ё. Сівіцам не спыніў клопатаў Я. Станкевіча пра кнігадрукаваньне. Скончаўся першы год акупацыі, а нямецкія ўлады не сьпяшаліся стварыць выдавецтва. З гэтай прычыны ён вырашыў не чакаць нямецкай ласкі і арганізаваць выпуск кніг у рамках БНС, што дазваляў ейны статут. Як паведамляла прэса, гэтая яго дзейнасьць пачалася ў чэрвені 1942 г., вядома, не без ухвалы Ермачэнкі[23].

Першай кнігай, якую выпусьціла БНС, была манаграфія Янкі Станкевіча "Крыўя–Беларусь у мінуласьці", надрукаваная ў жніўні 1942 г. вялікім накладам у 50 тыс. асобнікаў[24]. Раней, ад 12 лістапада 1941 г. да 31 студзеня 1942 г., яна друкавалася ў "Менскай Газэце". "Крыўя–Беларусь у мінуласьці" не была цалкам новай кнігай, але перапрацаваным і пашыраным аўтарам варыянтам праскага выданьня "Курс гісторыі Крывіі–Беларусі", у выніку чаго яна магла быць хутка надрукаваная ў Менску.

Пра выпуск гэтай кнігі шмат пазьней Іван Касяк напісаў:

> На самым пачатку дзейнасьці нямецкай цывільнай адміністрацыі д–р Ян Станкевіч змог собскімі сродкамі і ашукваючы немцаў выдаць друкам у Менску сваю невялікую гістарычную кніжку "Беларусь–Крывія ў мінуласьці". Выказаныя ў ёй погляды аб балтыцкіх уплывах на народ Беларусі выклікалі надзвычайную варожасьць у генэральным камісарыяце Беларусі. Д–р Станкевіч мусіў уцякаць зь Менску, каб ухаваць жыцьцё[25].

Варта разгледзець выказваньні І. Касяка. Па–першае, "Крыўя–Беларусь у мінуласьці" выйшла не на пачатку дзейнасьці цывільнай адміністрацыі, але амаль на год пазьней, па–другое, была выпушчана на сродкі БНС, а ня аўтара, урэшце, па–трэцяе, не магла выклікаць варожасьці генэральнага камісарыяту, які ўжо раней дазволіў яе надрукаваць у "Менскай Газэце", у сувязі з чым ніякой патрэбы "ашукваць немцаў" у Станкевіча не было. На гэта паказваюць і выступленьні Кубэ, які ахвотна падкрэсьліваў этнічныя асаблівасьці беларусаў, іх часткова нардычнае паходжаньне і г.д.[26].

Пасьля выпуску сваёй кнігі "Крыўя–Беларусь у мінуласьці" Станкевіч надалей працаваў у выдавецкім аддзеле БНС. Пад канец жніўня 1942 г. ён выехаў у Вільню, аднак не для "ўхаваньня" жыцьця, як лічыў Касяк, а для нагляду над выпускам сваёй чарговай кнігі "Лемантар пераходны з лацініцы на кірыліцу"[27]. Яе набор рабіўся лацінскім

---

[21] Даклад Э. Штраўха ад 25.07.1943 // Vierteljahreshefte für Zeitgeschichte. 1956. Heft 1. S. 81—82.

[22] Справаздача "Эвы" (Зоф'і Дабрынскай) з падарожжа ў Менск у ліпені 1942 г. Архіў новых актаў у Варшаве. Фонд Дэлегатуры ўраду, 203/VII—45. С. 23.

[23] Раніца. 1943. 10 студзеня.

[24] Лісты Я. Станкевіча да К. Езавітава ад 19.07. і 31.08.1942 // Спадчына. 1999. № 5—6.

[25] Найдзюк Я. і Касяк І. Беларусь учора і сяньня. Менск, 1993. С. 284.

[26] Беларускі народны каляндар на 1944 г. Менск, 1944. С. 94.

[27] Бессэнсоўныя выказваньні Касяка пра кнігу Станкевіча адлюстроўвалі яго стаўленьне да тагачасных дзеячоў каталіцкага паходжаньня, якіх ён падазраваў у прыхаванай прапольскай дзейнасьці. Ня маючы іншых магчымасьцяў, Касяк складаў менскаму СД надуманыя даносы на Я. Станкевіча, В.

шрыфтам у віленскай друкарні, і там яна была надрукаваная. Невядома, што паўплывала на выданьне гэтай кнігі. У той час, калі ў беларускія школы ўводзілася лацінка, здаецца, больш патрэбны быў пераходны лемантар з кірыліцы на лацінку, а не наадварот.

Выданьне абедзьвюх кніг Я. Станкевіча сьведчыла ня толькі пра магчымасьці, якія Ермачэнка стварыў свайму сябру. У той час, у другой палове 1942 г., пад яго кіраўніцтвам БНС дасягнула апагею сваіх пачынаньняў: была створана ўстанова мужоў даверу, арганізоўваўся корпус Беларускай самааховы, актывізавалася дзейнасьць у галіне школьніцтва, культуры і прапаганды, што побач з грамадзкай апекай і ахоўвай здароўя стварала надзею на прызнаньне самаўрадавых кампэтэнцыяў самапомачы.

Інтэгральнай часткай спадзяваньняў Ермачэнкі быў праект стварэньня на базе БНС кніжнага выдавецтва. З такой мэтай ён запрасіў у выдавецкі аддзел самапомачы Язэпа Найдзюка, вопытнага друкара і выдаўца беларускіх кніг і часопісаў у даваеннай Вільні. Найдзюк неадкладна заняўся падрыхтоўкай чарговых кніг. Паводле справаздачы кіраўніцтва БНС на сакавіцкі (1943 г.) зьезд яе акруговых кіраўнікоў, да гэтага часу Самапомач надрукавала акрамя дзьвюх кніг Станкевіча яшчэ зборнік калядных песень (“Ой, прыйшла каляда”. — *Ю.Т.*), “Страявы вайсковы статут” і падрыхтавала да друку пашыраную Найдзюком кніжку В. Ластоўскага “Што трэба ведаць кажнаму беларусу”, “Новы беларускі песеньнік” і некалькі календароў[28].

Пададзеныя ў гэтай справаздачы зьвесткі ствараюць пэўную загадку для бібліёграфа. Справа ў тым, што на вокладках трох кніг: “Ой, прыйшла каляда”, “Страявы вайсковы статут” і “Што трэба ведаць кажнаму беларусу” пазначаны як выдавец не БНС, а новастворанае Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі. Чаму апрацаваныя ў БНС і надрукаваныя коштам гэтай арганізацыі кнігі не былі выдадзеныя пад яе грыфам?

Так, летам 1942 г. начальства СС і паліцыі выступіла з рэзкай крытыкай палітыкі Кубэ ў Беларусі, які інсьпіраваў і падтрымоўваў незалежніцкія праекты Ермачэнкі, у прыватнасьці, стварэньне самааховы. Паступова на пачатку 1943 г. сфэра дзейнасьці БНС была моцна звужана і абмежавана да грамадзкай апекі і аховы здароўя. Выдаваць кнігі ёй ужо не дазвалялася. У красавіку 1943 г. Ермачэнка быў адсунуты ад кіраўніцтва і вымушаны пакінуць Беларусь[29].

Такім чынам, пад фірмай БНС былі выдадзеныя ў Менску толькі дзьве кнігі Я. Станкевіча. Трэцюю — “Беларускі лемантар «Зорка»” — выпусьцілі, верагодна, напрыканцы 1942 г. дзяячы БНС у Баранавічах[30].

Гэтага лемантара нам не давялося ні бачыць, ні знайсьці яго бібліяграфічнага апісаньня. Магчыма, ён быў поўным ці частковым перавыданьнем аднайменнага лемантара Аляксандры Смоліч, які ў міжваенныя гады некалькі разоў выпускаўся ў Вільні.

---

Іваноўскага, Я. Найдзюка і іншых. Гэтая справа разглядалася ў 1946 г. падчас выбараў у Беларускі нацыянальны камітэт у Нямеччыне, калі Я. Станкевіч адмовіўся супрацоўнічаць з Касяком за ягоныя даносы на Іваноўскага; у чым, пасьля сьведчаньня былога перакладчыка ў Менскім СД Віктара Чабатарэвіча, Касяк быў вымушаны прызнацца (гл.: Галяк Л. Успаміны. Частка другая. ЗША, 1983. С. 62). На сваё апраўданьне Касяк пазьней напісаў, што беларусы змагаліся з польскай акцыяй “тымі сродкамі, якія былі даступныя” (гл.: Касяк І. З гісторыі Праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью–Ёрк, 1956. С. 121).

[28] Беларуская Газэта. 1943. 18 сакавіка.

[29] Пра перадумовы канфлікту Кубэ і СС, які паўплываў на справу БНС і Ермачэнкі, гл. шырэй у працы Ю. Туронка “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”. С. 510—677 у гэтым выд. — *Рэд.*

[30] Голас Вёскі. 1943. 11 лютага.

### Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі

Пішучы ў "Беларускай Газэце" (1942. 15 кастрычніка) пра вынікі працы школьнага інспэктарату за першы год яго дзейнасьці, Я. Найдзюк выказаў спадзяваньне на ажыўленьне выпуску кніг пасьля заснаваньня Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі (далей ВШПЛМ), якое да гэтага часу, г.зн. да паловы кастрычніка 1942 г., усё яшчэ было ў стане арганізацыі. Першую зьвестку пра яго заснаваньне падала "Беларуская Школа": выдаўцом першых чатырох нумароў гэтага двухмесячніка быў Інспэктарат, а пятага, за верасень—кастрычнік 1942 г., — ВШПЛМ. Аднак пяты нумар "Беларускай Школы" выйшаў з спазьненьнем на некалькі тыдняў, відаць, у палове лістапада, на што паказвае зьвестка пра ягоны выпуск, надрукаваная 22 лістапада 1942 г. у "Беларускай Газэце". Такім чынам, заснаваньне ВШПЛМ адбылося пад канец кастрычніка або на пачатку лістапада 1942 г.

Кіраўніком ВШПЛМ В. Кубэ назначыў Ё. Сівіцу, які надалей заставаўся шэфам школьнага інспэктарату. Абедзьве гэтыя структуры аднолькава падпарадкоўваліся Генэральнаму камісарыяту Беларусі і працавалі пад кіраўніцтвам яго чыноўніка Сівіцы, які да канца акупацыі быў цэнзарам друкаваных кніг. Тэхнічным кіраўніком выдавецтва быў Язэп Найдзюк. У выдавецтве працавалі: прафэсар Мікола Байкоў, Антон Лёсік — брат мовазнаўцы й пэдагога Язэпа Лёсіка, Аўген Калубовіч, Язэп Гладкі, бухгальтар, сакратарка і машыністкі. З выдавецтвам супрацоўнічалі Янка Станкевіч, Яўхім Кіпель, Пётар Кісель, кампазытары Аляксей Туранкоў і Мікола Шчаглоў, мастак–графік Анатоль Тычына і іншыя[31].

Выдавецтва месьцілася ў доме № 13 на Камсамольскай вуліцы, перайменаванай падчас акупацыі на вуліцу Алеся Гаруна. Тамсама знаходзіўся школьны інспэктарат і БНС. Людзі, якія займаліся апрацоўкай і выпускам кніг, звычайна рабілі адну і тую справу і ня раз, асабліва праз дзесяцігодзьдзі, не маглі дакладна акрэсьліць для якой "фірмы" яны працавалі — для Інспэктарату, БНС ці выдавецтва. Нават Найдзюк, які выдатна ведаў тагачаснае становішча, блытаў выдавецтва з Інспэктаратам. Яўхім Кіпель, які з другой паловы 1942 г. працаваў у навуковым аддзеле Інспэктарату, пасьля вайны пісаў:

> ...мне не было ясна, куды гэты аддзел належаў адміністрацыйна: уважалася, што аддзел знаходзіўся пры генэральным камісарыяце, хоць мясьціўся ён пры самапомачы, ды ў розных справах адміністрацыйных усё заладжвалася якраз у той самапомачы[32].

Першай кнігай, якую напрыканцы 1942 г. выпусьціла ВШПЛМ, быў "Беларускі лемантар" Пятра Кісяля — дырэктара адной зь менскіх школаў. Яе выданьне адлюстроўвала незвычайныя цяжкасьці ў навучальным працэсе, калі забаранялася карыстацца савецкімі падручнікамі, а іншых не было. Кісель згадзіўся апрацаваць лемантар, аднак да восені 1942 г. здолеў падрыхтаваць толькі трэцюю яго частку. Усё ж, каб хоць часткова задаволіць патрэбы школаў, Інспэктарат вырашыў надрукаваць гэтую частку. Яе тэкст раптоўна абрываўся на 32 старонцы, на літары "Д". Выдавецтва не лічыла яго паўнацэнным лемантаром і не называла яго ў сьпісах сваіх выданьняў. Аднак кур'ёзнае выданьне 1942 г. адпавядае ўсім бібліяграфічным нормам і таму ўлучана ў наш каталёг. Агулам ВШПЛМ выдала 24 кнігі, улучна з лацінічным варыянтам "Беларускага правапісу" Лёсіка. З увагі на невялікую іх колькасьць выпуск кожнай кнігі быў свайго роду падзеяй і адзначаўся ў прэсе.

Найбольш пільным іх "летапісцам", так як калісьці ў віленскім "Шляху Моладзі", быў Язэп Найдзюк, які пад сваімі псэўданімамі (З. Бойдацкі, Разглядальнік і іншымі) сыстэматычна зьмяшчаў у "Беларускай Газэце" і "Голасе Вёскі" інфармацыю аб вы-

[31] Найдзюк Я. Ліст да аўтара ад 18.09.1979 (архіў аўтара).
[32] Кіпель Я. Эпізоды. Нью–Ёрк, 1998. С. 212.

даньнях ВШПЛМ. “Кажная новая беларуская кніжачка, — пісаў ён 6 мая 1943 г. у “Беларускай Газэце”, — нашым часам цешыць ужо самым фактам свайго зьяўленьня”. Гэтыя яго зьвесткі дазволілі вызначыць розныя бібліяграфічныя дэталі, якія часам не падаваліся на вокладках кніг, у прыватнасьці, удакладніць час іх выпуску. З увагі на кароткую дзейнасьць ВШПЛМ сам год выпуску кнігі яшчэ недастатковы для высьвятленьня выдавецкай працэдуры і яе вынікаў. Праўда, на некаторых кнігах часам падаваўся і месяц выпуску, але такіх кніг было няшмат, і толькі дзякуючы прэсавай інфармацыі можна было ўстанавіць больш дакладны тэрмін выданьня, прынамсі, па кварталах. Дарэчы, зборнік “Ой, прыйшла каляда” быў выдадзены не ў 1942 г., як пададзена на яго вокладцы, а ў студзені 1943 г. (гл. дакумэнтацыю ў каталёгу).

Вынікі працы ВШПЛМ, найбольш істотныя для аналізу яго дзейнасьці, паказаны ў табліцы 1. Кнігі, выдадзеныя лацінкай, трансьлітаруюцца кірыліцай, аднак з абазначэньнем алфавіту кожнай кнігі сымбалямі “К” — кірыліца і “Л” — лацінка. Фактычны выпуск кніг даецца па кварталах. У табліцы не падаецца месца выданьня, якім ува ўсіх выпадках быў Менск як сядзіба ВШПЛМ, затое падаецца месца іх надрукаваньня. Усе бібліяграфічныя дэталі ў поўным выглядзе пададзеныя ў каталёзе.

**Табліца 1.** Кнігі Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі

| **Аўтар/ загаловак** | **Алфавіт** | **Год, квартал выданьня** | **Колькасьць стар.** | **Наклад у тыс.** | **Месца друку** |
|---|---|---|---|---|---|
| П. Кісель. Беларускі лемантар | Л | 1942, IV | 32 | ? | Менск |
| Ой, прыйшла каляда | К | 1943, I | 16 | 5 | Менск |
| Страявы вайсковы статут | К | 1943, I | 31 | 10 | Менск |
| В. Ластоўскі. Што трэба ведаць кожнаму беларусу | К | 1943, II | 31 | ? | Менск |
| Вясна–красна | К | 1943, II | 16 | ? | Менск |
| М. Лясун. На крыжы | К | 1943, II | 62 | ? | Менск |
| Эвангельскі хрысьціянскі сьпеўнік | К | 1943, II | 176 | ? | ? |
| П. Кісель. Беларускі лемантар | Л | 1943, II | 96 | ? | Менск |
| Зборнік купальскіх і жніўных песьняў | К | 1943, III | 36 | ? | Менск |
| Зборнік сцэнічных твораў | К | 1943, III | 80 | ? | Менск |
| А. Лёсік. Беларускі правапіс | К | 1943, III | 61 | 100 | Менск |
| Б. Тарашкевіч. Беларуская граматыка | К | 1943, IV | 104 | 100 | Менск |
| З. Дабрынская, П. Шырынскі. Зборнік арытмэтычных задачаў | Л | 1943, IV | 88 | 50 | Вільня |
| З. Дабрынская, М. Завусьцінскі. Зборнік арытмэтычных задачаў | Л | 1943, IV | 104 | 50 | Вільня |
| Я. Станкевіч. Кніжка вучыцца чытаць і пісаць лацініцаю | К, Л | 1943, IV | 48 | 10 | Вільня |
| А. Лёсік. Беларускі правапіс | Л | 1944, I | 72 | 50 | Вільня |
| П. Кісель. Беларускі лемантар | Л | 1944, I | 96 | 30 | Менск |
| Т. Лебяда. Песьні выгнаньня | К | 1944, I | 32 | 5 | Вільня |
| Я. Найдзюк. Беларусь учора і сяньня | К | 1944, I | 304 | 25 | Менск |
| Л. Случанін. Рагнеда | К | 1944, II | 63 | 5 | Вільня |
| Н. Арсеньнева. Сягоньня | К | 1944, II | 127 | 5 | Вільня |
| Я. Станкевіч. Маленькі слоўнічак фразэолёгічны | К | 1944, II | 151 | ? | Менск |
| Выбраныя беларускія народныя казкі | Л | 1944, II | 96 | ? | Вільня |
| Алесь Салавей. Мае песьні | К | 1944, III | 96 | 3 | Рыга |

Хаця асноўнай задачай ВШПЛМ быў выпуск літаратуры для патрэбаў школьніцтва, тэматычны дыяпазон яго выданьняў даволі шырокі. Акрамя школьных падручнікаў, яно выпусьціла песеньнікі, рэпэртуарны зборнік, казкі, мастацкую, рэлігійную, вайсковую, навуковую і навукова–папулярную літаратуру.

Пераважную частку выданьняў ВШПЛМ складалі арыгінальныя творы беларускіх аўтараў, апрацаваныя ўва ўмовах нямецкай акупацыі. Да іх ліку належалі школьныя падручнікі П. Кісяля, А. Лёсіка, Я. Станкевіча і З. Дабрынскай, зборнікі паэзіі і апавяданьняў Н. Арсеньневай, Т. Лебяды, М. Лясуна, А. Салаўя і Л. Случаніна, а таксама апрацаваны Я. Станкевічам пры ўдзеле А. Адамовіча "Маленькі маскоўска–беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразэолёгічны". "Граматыка" Б. Тарашкевіча лічылася перавыданьнем яе пятага віленскага выпуску, аднак яна была перапрацаваная і дапоўненая А. Лёсікам, К. Шкуцькам і А. Адамовічам згодна з патрабаваньнямі новага правапісу.

Кніга Я. Найдзюка "Беларусь учора і сяньня" не была падручнікам для пачатковых школаў. Яна мела характар навукова–папулярнай працы, прызначанай для нацыянальнай адукацыі інтэлігенцыі і старэйшай моладзі, у прыватнасьці, для вучняў настаўніцкіх сэмінарыяў. Параўнальна аб'ёмістая кніга (звыш 300 старонак) не рыхтавалася насьпех — над ёй аўтар працаваў яшчэ ў Вільні, дзе ў 1940 г. выдаў аднайменную кніжку і ў 1941—1942 г. закончыў апрацоўку яе новага варыянту, які ад пачатку 1942 г. друкаваўся ў "Голасе Вёскі". Аднак, нягледзячы на сугучнасьць загалоўкаў, няма падставы лічыць менскае выданьне пашыраным перавыданьнем віленскага: аб'ём выдадзенай у 1944 г. кнігі быў у пяць разоў большы, чым віленскага выданьня. Па сутнасьці, гэта быў цалкам новы твор.

Новымі былі і выданьні фальклёрных песень "Ой, прыйшла каляда", "Вясна–красна" і "Зборнік купальскіх і жніўных песьняў" з музычнай гарманізацыяй М. Шчаглова, А. Туранкова і іншых кампазытараў. Некаторыя кнігі, як "Зборнік сцэнічных твораў", "Выбраныя беларускія народныя казкі" і "Што трэба ведаць кажнаму беларусу" В. Ластоўскага, былі передрукам ранейшых выданьняў, прычым апошняя была пашырана Я. Найдзюком.

Больш складаная была кампазыцыя апрацаванага ў 1942 г. прапаведнікам царквы баптыстаў у Беларусі Антонам Кецкам "Эвангельскага хрысьціянскага сьпеўніка". Зьмешчаныя ў ім 142 рэлігійныя гімны былі часткова передрукаваныя з папраўкамі з даваенных песеньнікаў "Песьні духоўныя з гарфы сіёнскай" (Варшава, 1925) і "Божая ліра" (Вільня, 1930) і часткова новаперакладзены Натальляй Арсеньневай зь нямецкай мовы. Да перакладной літаратуры таксама адносіўся "Страявы вайсковы статут", апрацаваны Віталем Мікулам на загад І. Ермачэнкі для патрэбаў самаахловы, паліцыі і школьнай моладзі.

Як паказана ў табліцы, з агульнай колькасьці 24 кніг, выпушчаных ВШПЛМ, 16 было надрукавана кірыліцай, 7 — лацінкай, а Я. Станкевіча "Кніжка вучыцца чытаць і пісаць лацініцаю" — двума алфавітамі. Яна прызначалася як дапаможнік для ўсходнебеларускіх настаўнікаў, зь якіх многія ведалі толькі кірыліцу. Згодна з дырэктывай А. Розэнбэрга, лацінкай друкаваліся пераважна школьныя падручнікі. Астатнія кнігі, як правіла, выдаваліся кірыліцай, а адзіным выняткам былі "Выбраныя беларускія народныя казкі", на што, відаць, паўплывалі асабістыя сымпатыі да лацінкі яе складальніка і выдаўца Язэпа Найдзюка.

З розных прычынаў кнігі ВШПЛМ друкаваліся ў розных друкарнях. Паколькі ў Менску былі праблемы з адпаведнымі шрыфтамі і друкарамі, набор лацінічных выданьняў пераважна адбываўся ў Вільні і частка іх там друкавалася. Аднак у выніку перагружанасьці менскіх друкарняў у Вільню накіроўваліся і некаторыя кірылічныя выданьні ВШПЛМ, напрыклад, зборнікі вершаў Т. Лебяды, Н. Арсеньневай і Л. Случаніна. Агулам у Менску надрукавана 14 кніг, у Вільні — 8 і адна — у Рызе, дзе працаваў яе аўтар Алесь

Салавей. Ня высьветлена месца друку “Эвангельскага хрысьціянскага сьпеўніка”.

Кнігі ВШПЛМ выпускаліся адносна вялікімі накладамі. Граматыка Тарашкевіча і кірылічны варыянт “Правапісу” А. Лёсіка выдадзеныя 100–тысячным накладам кожная кніга, а арытмэтычныя задачнікі і лацінічны варыянт “Правапісу” — па 50 тыс. асобнікаў. Напэўна, ня меншы быў агульны наклад “Лемантара” П. Кісяля — яго другое, стэрэатыпнае выданьне 1944 г. выйшла накладам 30 тыс. асобнікаў. Наклад папулярнай гісторыі Беларусі Я. Найдзюка склаў 25 тыс., зборнікаў паэзіі Н. Арсеньневай, Л. Случаніна і А. Салаўя — ад 3 да 5 тыс., “Страявога вайсковага статуту” — 10 тыс. і зборніка “Ой, прыйшла каляда” — 5 тыс. асобнікаў.

Паводле зьвестак, падаваных на вокладках кніг і ў газэтах, цэны выданьняў ВШПЛМ былі адносна нізкія. Школьныя падручнікі прадаваліся па 1,00—2,00 маркі, зборнік Т. Лебяды “Песьні выгнаньня” каштаваў 75 пфэнігаў, зборнік вершаў А. Салаўя — 3 маркі, “Выбраныя беларускія народныя казкі” — 3,50 маркі, “Фразэолёгічны слоўнічак” Я. Станкевіча — 2 маркі, а найбольш аб’ёмістая кніга Найдзюка “Беларусь учора і сяньня” — 5 марак. Паводле Я. Найдзюка, кнігі ВШПЛМ пачаткова субсыдыяваліся генэральным камісарыятам, але з часам прыход зь іх продажу перавысіў кошты выданьня і выдавецтва стала прыбытковым[33].

Для ацэнкі дзейнасьці ВШПЛМ важнае значэньне мае фактар часу выпуску кніг, ад чаго ў вялікай ступені залежалі іх распаўсюджваньне і выкарыстаньне. Першы школьны падручнік — закончаны “Беларускі лемантар” Кісяля — быў надрукаваны вясной (хутчэй за ўсё ў маі 1943 г.), і таму наўрад ці акруговыя і павятовыя школьныя інспэктары змаглі яго даставіць у школы перад летнімі вакацыямі. А гэта значыць, што ня толькі ў 1941/42, але і ў 1942/43 годзе школы працавалі без падручнікаў. Летам 1943 г. выйшаў з друку кірылічны варыянт “Беларускага правапісу” А. Лёсіка, а ў сьнежні і на пачатку 1944 г. — астатнія падручнікі, але настаўнікі і вучні маглі імі карыстацца ўсяго некалькі месяцаў, бадай, да мая, калі закончыліся школьныя заняткі. Пазьней яны ўжо былі непатрэбныя.

Як паказана ў табліцы 1, 13 кніг, або больш за палову ўсіх выданьняў ВШПЛМ, былі надрукаваныя ў апошнія месяцы акупацыі — ад сьнежня 1943 да чэрвеня 1944 г. Кнігі Н. Арсеньневай, Л. Случаніна, казкі і фразэалягічны слоўнічак Я. Станкевіча выйшлі ў маі–чэрвені 1944 г., і таму толькі нязначная частка іх накладаў магла быць распаўсюджаная да чэрвеньскага наступленьня Чырвонай Арміі. Як пісаў Я. Станкевіч у прадмове да другога выданьня “Слоўнічка”, у выніку сьпешнай эвакуацыі ў Нямеччыну амаль увесь наклад яго кнігі застаўся ў Менску. Такі ж быў лёс і зборніка лірыкі Алеся Салаўя “Мае песьні”, надрукаванага ў ліпені 1944 г. у Рызе, адкуль толькі частку накладу аўтар змог забраць з сабою ў Бэрлін[34].

З прычыны эвакуацыі не было закончана выданьне некалькіх кніг, падрыхтаваных ВШПЛМ да друку. На пачатку 1944 г. У. Сядура здаў выдавецтву дзьве свае працы “Беларускі тэатар” і “Беларускае мастацтва”, якія, паводле “Беларускай Газэты” ад 15 сакавіка 1944 г., павінны былі “ў хуткім часе ўбачыць сьвет”. Не была выдадзена п’еса Т. Лебяды “Загубленае жыцьцё”, чытанка П. Кісяля і некалькі рэлігійных працаў ксяндза Ільдэфонса Бобіча.

### Іншыя выдаўцы

У адрозьненьне ад газэт і часопісаў, выданьне кніг на абшары генэральнай акругі Беларусі, як і на іншых тэрыторыях Остлянду, не было строга цэнтралізавана і ВШПЛМ

[33] Паводле інфармацыі Я. Найдзюка з 1980 г.

[34] Пра гэтыя турботы А. Салаўя гл.: Адамовіч Антон. Жыцьцё й паэтычная спадчына Алеся Салаўя ў кнізе “Нятускная краса” // Салавей Алесь. Збор твораў. Нью–Ёрк—Мэльбурн, 1982. С. 307—311.

не было выключным выдаўцом. Выпускаць кнігі дазвалялася і іншым установам, згуртаваньням ці асобам пасьля атрыманьня на тое згоды генэральнага або акруговага камісарыяту. Паколькі акупацыйныя ўлады не стваралі прынцыповых перашкод, выданьне кнігі па–за ВШПЛМ у значнай меры залежала ад ініцыятывы і творчых магчымасьцяў аўтараў і выдаўцоў і, вядома, наяўнасьці сродкаў. Аднак такіх выданьняў было ўсяго некалькі.

У сьнежні 1943 г. у Слуцку быў выпушчаны зборнік вершаў мясцовых аўтараў "Песьняры Случчыны" пад рэдакцыяй Уладзімера Клішэвіча. У зборніку друкаваліся творы У. Клішэвіча, Л. Случаніна, Я. Золака, А. Крота, В. Блакітнага, Л. Гая і В. Явара. Гэты даволі аб'ёмісты зборнік убачыў сьвет дзякуючы датацыі Слуцкага акруговага камісарыяту. Вясной 1944 г. рэдакцыя часопіса "Новы Шлях" выпусьціла сцэнічны гратэск Францішка Аляхновіча "Круці, не круці — трэба памярці".

Пасьля забойства 5 сакавіка 1943 г. лідэра беларускіх нацыянал–сацыялістаў Фабіяна Акінчыца яго ідэйныя паплечнікі Ўладзіслаў Казлоўскі і Міхась Ганько выдалі ў Менску брашуру "Фабіян Акінчыц. Ягонае жыцьцё і думкі". Брашура, напэўна, выйшла на сродкі СБМ, як і апрацаваны пры ўдзеле кампазытара Міколы Шчаглова "Юнацкі сьпеўнік", выдадзены на пачатку 1944 г.

Немалую цікавасьць выклікае выданьне кнігі "Смалакурэньне" прафэсара Калыньша, якая 19.04.1944 рэклямавалася ў "Беларускай Газэце". У ёй разглядаліся спосабы карчаваньня пнёў, тэхналёгія вуглепаленьня, дзёгцекурэньня, кансэрвацыі драўніны і смалакурэньня.

Нам не давялося адшукаць гэтую кнігу ці яе бібліяграфічнае апісаньне, акрамя пададзеных у каталёгу аб'ёму і кошту. Таксама невядома, ці Калыньш — гэта сапраўднае прозьвішча ці псэўданім. Затое вядома, што падобнымі пытаньнямі, у прыватнасьці, карчаваньнем пнёў і кансэрвацыяй драўніны, займаўся ў 30–я гады прафэсар Варшаўскай палітэхнікі Вацлаў Іваноўскі, які ў 1941—1943 г. працаваў у Менску[35]. Можа, гэты сьлед давядзе будучых дасьледчыкаў да разгадкі пытаньня аўтарства і выданьня.

Даволі позна занялася выпускам папулярнай сельскагаспадарчай літаратуры рэдакцыя газэты "Голас Вёскі". Як пісаў яе былы рэдактар Яўхім Кіпель, вясной 1944 г. было здадзена ў друк шэсьць кніжачак, якія мелі выйсьці 25–тысячным накладам кожная[36]. Далейшы іх лёс невядомы.

Безвыніковымі былі выдавецкія пляны Беларускай цэнтральнай рады. Паводле Р. Астроўскага, яе навуковы аддзел за некалькі месяцаў свайго існаваньня склаў 21 падручнік для сярэдніх і пачатковых школаў і апрацаваў беларуска–нямецкі тэхнічны слоўнік[37]. Некаторыя падручнікі мелі быць здадзены ў друк, але ніводзін ня ўбачыў сьвету.

* * *

Агулам за тры гады акупацыі ў генэральнай акрузе Беларусі выйшла, ня лічачы нямецкіх выданьняў (пра якія ніжэй), 50 кніг на беларускай мове. Зь іх ліку Краёвае выдавецтва "Менск" выпусьціла 1 кнігу, ксёндз Глякоўскі — 3, школьны інспэктарат — 14, БНС — 3, ВШПЛМ — 24 і іншыя выдаўцы — 5.

### Генэральная акруга Літва

Вялікае значэньне Вільні як нацыянальнага цэнтру Заходняй Беларусі пачало слабець ужо ў 30–х гадох, калі польскія ўлады паступова спынялі дзейнасьць беларускіх грамадзкіх і культурных арганізацыяў і выганялі з роднага краю іх актыўных удзельні-

[35] Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі. С. 140—256 гэтага выданьня. — *Рэд.*
[36] Кіпель Я. Тамсама, с. 222.
[37] Другі ўсебеларускі кангрэс. Мюнхэн: выд. БЦР, 1954. С. 24—25.

каў. Значэньне Вільні яшчэ больш паслабела пасьля далучэньня восеньню 1939 г. заходнебеларускіх абшараў да савецкай Беларусі і тэрытарыяльнага разьмежаваньня БССР і Літвы. Беларуская грамада ў Вільні раптоўна апынулася ў становішчы ледзь не замежнай эміграцкай групоўкі з абмежаванымі сувязямі з насельніцтвам заходніх абласьцёў БССР. Да таго, гэтая групоўка пачала прыкметна зьмяншацца — адны перасяляліся ў Беларусь, іншых савецкія ўлады арыштоўвалі і вывозілі, урэшце некалькі дзясяткаў дзеячоў напярэдадні акупацыі Літвы Чырвонай Арміяй у другой палове чэрвеня 1940 г. выехала зь Вільні на абшар нямецкай акупацыі.

Падчас нямецкай акупацыі ў Вільні існаваў адноўлены Беларускі нацыянальны камітэт, працавала беларуская гімназія і настаўніцкая сэмінарыя, з сакавіка 1942 г. выдаваўся штотыднёвы “Беларускі Голас”*. Аднак наўрад ці гэтыя мерапрыемствы былі задуманыя як спроба актывізацыі беларускага руху на абшары Літвы. Паводле Язэпа Малецкага, старшыні БНК у 1941—1942 г., галоўным заданьнем камітэту была падборка кадраў для працы ў Беларусі, куды накіравалі некалькі сот чалавек[38]. Зь ліку шматлікіх да вайны ўдзельнікаў кнігавыдавецкага руху ў Вільні засталіся нямногія — ксёндз Адам Станкевіч, Станіслаў Грынкевіч, Францішак Аляхновіч і некалькі іншых.

У такіх варунках за тры гады нямецкай акупацыі ў Вільні выйшлі толькі тры беларускія кніжкі, зь якіх дзьве — “Патрэбнейшыя выняткі з Рытуалу” і вучнёўскі малітаўнік “Вучыся і маліся” — апрацаваў і выдаў у 1943 і 1944 г. ксёндз Адам Станкевіч. Паводле “Беларускай Газэты” (29.03.1944), да выпуску малітаўніка прычыніліся віленскія беларусы–каталікі, відаць, шляхам аказаньня грашовай падтрымкі.

Трэцяя кніга — “25–лецьце Беларускае Гімназіі ў Вільні 1919—1944” — выйшла стараньнем кіраўніцтва гімназіі, юбілей якой сьвяткаваўся ў красавіку 1944 г. У кнізе зьмяшчаліся друкаваныя кірыліцай і лацінкай тэксты гадунцоў гімназіі ды іншых дзеячоў.

### Генэральная акруга Латвія

Больш стабільным, чым у Літве, было становішча беларускай меншасьці ў Латвіі. Праўда, і там культурна–асьветная дзейнасьць беларускіх арганізацыяў ужо ў 30–я гады абмяжоўвалася латыскім урадам, а ў 1940/41 г. была цалкам спынена савецкімі ўладамі, аднак гэтыя падзеі не выклікалі такой значнай міграцыі беларускай інтэлігенцыі, як у Вільні. У выніку, ува ўмовах нямецкай акупацыі няцяжка было аднавіць ранейшыя арганізацыйныя структуры.

Важную ролю ў грамадзкім жыцьці латвійскіх беларусаў адыграў Канстанцін Езавітаў. У жніўні 1941 г. ён узначаліў Беларускі нацыянальны камітэт у Рызе, які кіраваў працай мясцовых камітэтаў ува Усходняй Латвіі, галоўным чынам па аднаўленьні школаў і гурткоў мастацкай самадзейнасьці.

Значную ролю адыграў К. Езавітаў і ў аднаўленьні кнігавыдавецкай дзейнасьці ў Латвіі. Посьпех у гэтай справе залежаў ня толькі ад дазволу акупацыйных уладаў, але таксама, і то ня ў меншай меры, ад наяўнасьці сродкаў, пра якія мусіў руліцца сам выдавец.

З такой мэтай узьнікла ідэя стварэньня грамадзкага выдавецкага фонду, якая ажыцьцяўлялася арганізаваным парадкам сярод настаўнікаў. Як паведамляла “Раніца” (26.07.1942), першыя пачалі зьбіраць грошы на выданьне падручнікаў і іншых кніг настаўнікі Дзьвіншчыны, зь якіх кожны прызначыў на выдавецкі фонд адну месячную зарплату. Гэтая акцыя працягвалася і ў наступным годзе, а сабраныя грошы перадаваліся ў распараджэньне К. Езавітава.

* Рэдагаваная Ф. Аляхновічам газэта “Biełaruski Hołas” выходзіла ў акупаванай немцамі Вільні з 1942 па 1944 г. — *А.П.*

[38] Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. С. 54.

Незалежна ад настаўніцкіх складчын, якія, вядома, не маглі забясьпечыць выдавецкіх патрэбаў, К. Езавітаў, напэўна, спадзяваўся і на іншыя грашовыя паступленьні і на базе сваіх аптымістычных разьлікаў разьвіваў амбітныя пляны. Акрамя школьных падручнікаў ён імкнуўся выдаваць кнігі для дзяцей, музычную і навуковую літаратуру, слоўнікі. Працаваў сам і заахвочваў да супрацоўніцтва іншых аўтараў, мастакоў, кампазытараў, наладзіў кантакты зь менскімі выдаўцамі Янкам Станкевічам і Язэпам Найдзюком, які ў лютым 1942 г. адведаў яго ў Рызе.

Летам 1942 г. К. Езавітаў сумесна з П. Бруноўскім і П. Масальскім закончылі апрацоўку беларуска–нямецкага слоўніка, які плянавалі выдаць у нямецкім выдавецтве ў Рызе[39].У канцы жніўня Я. Станкевіч даслаў яму рукапісы апрацаваных Зоф'яй Дабрынскай падручнікаў — лемантара, чытанкі "Наша кляса" і выдадзеную ў Празе яе "Арытмэтыку" з прапановай перавыданьня ў Рызе[40]. На заклік Езавітава адгукнуліся Аляксей Туранкоў і іншыя менскія кампазытары, а таксама дырэктар гімназіі ў Зілупэ на Люцыншчыне Сяргей Сахараў, які падрыхтаваў да друку зборнік народных твораў. У выдавецкую дзейнасьць уключылася і рыская мастачка родам з Чарнігаўшчыны Аляксандра Бяльцова, якая рыхтавала малюнкі да праектаваных кніжак для дзяцей.

Супрацоўнікаў і матэрыялаў прыбывала, але фінансавыя магчымасьці відавочна не адпавядалі аптымістычным спадзяваньням К. Езавітава. Таму, кіруючыся камэрцыйным разьлікам, ён пачаў з музычнай літаратуры, якая ўяўлялася больш прыбытковай, чым школьныя падручнікі.

Пры значным попыце на музычныя творы ў Латвіі і Беларусі плянаваныя паступленьні зь іх продажу павінны былі хутка палепшыць фінансавае становішча выдаўца і паспрыяць рэалізацыі яго праграмы.

На працягу сямі месяцаў — ад лістапада 1942 да мая 1943 г. — К. Езавітаў выдаў у Рызе 10 паасобных беларускіх народных песень і рамансаў з нотамі ў гарманізацыі кампазытараў: М. Зінчука "Палыночак", Т. Самохінай "Непагодны вечар", А. Спаскага "Астры", А. Туранкова "Маладыя гады", "Лета", "Скрыпка", "Вечар", "Лявоніха", "Слуцкія ткачыхі" і "Ў садочку цьвітучым", а таксама два зборнікі: М. Мікалаевіча "3 беларускія народныя песьні" і А. Туранкова "7 беларускіх рамансаў". Усе творы былі выпушчаныя накладам ад 1000 да 2000 асобнікаў і атрымалі высокую ацэнку рэцэнзэнтаў А. Карповіча (Новы Шлях. 1943. № 18) і М. Шчаглова (Беларуская Газэта. 1943. 8 верасьня).

Аднак музычная літаратура не дала спадзяванага прыбытку, у сувязі з чым К. Езавітаў быў вымушаны абмежаваць ранейшыя праекты. У палове 1943 г. быў надрукаваны невялікі "Статут Беларускага аб'яднаньня ў Латвіі" і, пасьля доўгага чаканьня, у лістападзе 1943 г. выйшла яго чытанка "Беларуская школа", перадрукаваная з даваеннага рыскага выданьня. Урэшце ў маі 1944 г. выйшла ілюстраваная Аляксандрай Бяльцовай кніжка для дзяцей "Камарочак", якая, здаецца, была апошнім выдавецкім зьдзяйсьненьнем К. Езавітава.

Некалькі кніг засталося ў рукапісах. Не былі выкарыстаны дасланыя Я. Станкевічам лемантар і чытанка З. Дабрынскай, зборнік народных твораў С. Сахарава, а таксама беларуска–нямецкі слоўнік. Затое плянавалася выданьне "Арытмэтыкі" З. Дабрынскай. Летам 1943 г. быў атрыманы дазвол нямецкіх уладаў на выпуск гэтага падручніка, пасьля чаго К. Езавітаў здаў яго ў друкарню, але ці з–за нястачы грошай ці з–за іншых прычынаў да канца акупацыі прэса не паведамляла пра яго надрукаваньне.

Акрамя К. Езавітава, энтузіястам выдавецкай працы ў Латвіі быў Мікола Панькоў, які ўзначаліў у Дзьвінску ініцыятыўную групу па падрыхтоўцы Беларускай народнай энцыкляпэдыі. У ёй плянавалася 50—55 тыс. артыкулаў, тысячы здымкаў, малюнкаў,

[39] Раніца.1942. 26 студзеня.

[40] Станкевіч Я. Лісты да К. Езавітава ад 19.07.1942 і 31.08.1942 // Спадчына. 1999. № 5—6.

картаў, дыяграм і інш. У залежнасьці ад падтрымкі гэтай ініцыятывы творчай інтэлігенцыяй Панькоў спадзяваўся скончыць падрыхтоўку энцыкляпэдыі не пазьней 1944 г.[41]. Задума была нерэальная і не магла зьдзейсьніцца.

## Беластоцкая акруга

Да нямецкай акупацыі беларускія кнігі ў Беластоку амаль не выдаваліся, сьціплыя патрэбы мясцовага насельніцтва пакрываліся паставамі віленскіх, а з восені 1939 г. — менскіх выданьняў. Адсутнасьць выдавецкай традыцыі і мясцовых творцаў была асноўнай прычынай стагнацыі кнігавыдавецкай справы і падчас акупацыі. Нямецкая адміністрацыя доўгі час яе не стымулявала і абмяжоўвалася выпускам для беларусаў Беластоцкай акругі штотыднёвіка “Новая Дарога” і пэрыядычных календароў “Гаспадар”.

Рухавіком інтэлектуальнага жыцьця ў Беластоку быў у той час вядомы паэт і гісторык, вілянчук Хведар Ільляшэвіч — старшыня Беларускага аб’яднаньня і рэдактар “Новай Дарогі”. У кастрычніку 1943 г. ён прыцягнуў да супрацоўніцтва прыбылага з Магілёўшчыны паэта Масея Сяднёва, які апрацаваў у Беластоку зборнік успамінаў і артыкулаў пад загалоўкам “Ахвяры бальшавізму”, а таксама зборнік сваіх вершаў “Ад сына твайго, Беларусь”. На пачатку 1944 г. Беларускае аб’яднаньне рашыла выдаць абедзьве кнігі М. Сяднёва і пасьля атрыманьня дазволу ўладаў выслала іх у кёнігсбэрскую друкарню.

Як пісаў аўтару М. Сяднёў, абодва зборнікі друкаваліся ў Кёнігсбэргу адначасова і ў ліпені 1944 г. ужо былі гатовыя. Аднак падчас бамбаваньня гораду зборнік вершаў згарэў, а “Ахвяры бальшавізму” цудам ацалелі. Усё ж друкарня не магла выслаць ацалелы наклад Беларускаму аб’яднаньню ў Беласток, які ў міжчасе быў заняты Чырвонай Арміяй. Кніга была адпраўлена Беларускаму камітэту самапомачы ў Бэрлін, дзе неўзабаве апынуўся і яе аўтар[42].

Таксама ня зьдзейсьніўся выпуск двух школьных падручнікаў — лемантара і чытанкі для II—III клясаў. Адзін зь іх апрацаваў інспэктар беларускіх школаў Беластоцкай акругі Аляксей Грыцук, а другі — іншы настаўнік, праўдападобна, П. Санчык. Абедзьве кніжкі на пачатку 1944 г. былі адпраўлены ў кёнігсбэргскую друкарню і там згарэлі ў выніку ваенных дзеяньняў[43]. Такім чынам, рэальны вынік кнігавыдавецкай дзейнасьці ў Беластоку абмежаваўся адной кнігай Сяднёва “Ахвяры бальшавізму”, якая распаўсюджвалася ўжо толькі сярод эмігрантаў у Нямеччыне.

Чамусьці не шанцавала Беластоку. У 1943 г. Беларускае Аб’яднаньне плянавала выдаць зборнік народных казак Беласточчыны і зборнік беларускіх песень, які рыхтавалі мясцовыя кампазытары З. Арлоў і А. Евец[44]. Аднак ніводзін зь іх ня быў складальнікамі скончаны.

У апошнія месяцы акупацыі Х. Ільляшэвіч разгортваў новыя праекты кнігавыдавецкай дзейнасьці ў Беластоку — плянаваў выдаць лепшыя творы беларускай літаратуры ў сэрыі “Беларуская Народная Бібліятэчка”, пераклады сусьветнай клясыкі ў сэрыі “Бібліятэка перакладаў” і іншыя кніжкі[45]. Гэтыя праекты перакрэсьліла наступленьне Чырвонай Арміі. Летам 1944 г. Ільляшэвіч выехаў у Бэрлін, дзе ажыцьцяўляў сваю задуму.

---

[41] Новая Дарога. 1943. 5 верасьня.

[42] Сяднёў М. Ліст да аўтара ад 02.10.1995 (архіў аўтара).

[43] Relacja Aleksandra Hrycuka… // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1999. № 11. S. 228—234.

[44] Новая Дарога. 1943. 25 ліпеня.

[45] Жумарь С. Тамсама, с. 40.

## Генэральнае губэрнатарства

Заснаваны на пачатку 1940 г. Беларускі камітэт у Варшаве на працягу ўсёй сваёй гісторыі фармальна не займаўся выдавецкай дзейнасьцю. Аднак з ініцыятывы камітэту 19 ліпеня 1942 г. было створана пры беларускай праваслаўнай парафіі ў Варшаве царкоўнае брацтва імя сьвятога Юр'я, якое з апрабацыяй Варшаўскага мітрапаліта Дзяніса выпускала рэлігійную літаратуру на беларускай мове[46].

У 1942—1943 г. старшынём брацтва быў протаярэй Хведар Барэцкі, настаяцель беларускай праваслаўнай парафіі ў Варшаве, яго намесьнікам — доктар Антон Краскоўскі, а сакратаром — Мікола Ждановіч, якія аднначасова ўваходзіў у склад кіраўніцтва камітэту. Праз Ждановіча камітэт ажыцьцяўляў фінансавую і іншую дапамогу брацтву ў яго выдавецкіх мерапрыемствах. Акрамя таго, Ждановіч быў неафіцыйным рэдактарам выданай літаратуры. Першай кніжкай, выдадзенай брацтвам, стаў надрукаваны ў жніўні 1942 г. "Нармальны статут праваслаўных царкоўных брацтваў". Вясной 1943 г. выйшаў вялікім накладам "Беларускі праваслаўны малітвеньнік", апрацаваны на падставе даваеннага падручніка С. Паўловіча "Першая навука Закону Божага", а таксама "Беларускі праваслаўны патэрык", прысьвечаны пытаньням гісторыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі. Акрамя таго, брацтва выпусьціла невялікі царкоўны каляндар на 1943 г. Як паведамляла "Раніца" (1944. 9 студзеня), брацтва пачало рыхтаваць выпуск другога сшытка "Патэрыка", які, аднак, ня ўбачыў сьвету.

З увагі на абмежаваны попыт у генэральным губэрнатарстве кіраўніцтва брацтва ў паразуменьні зь Беларускім камітэтам рашыла значную частку накладу малітвеньніка распаўсюдзіць бясплатна сярод беларусаў у Нямеччыне, што і было зроблена на пачатку 1944 г.[47].

## Нямеччына

Калі да 22 чэрвеня 1941 г. беларускім выдаўцам на тэрыторыі Нямеччыны забаранялася выказваць варожае стаўленьне да Савецкага Саюзу, то ўва ўмовах нямецка–савецкай вайны такое патрабаваньне, вядома, ужо ня мела сэнсу. Зьмяніўся тон "Раніцы", але не беларускіх кніжных выданьняў, якія, дарэчы, выпускаліся рэдка і на фоне ажыўленай дзейнасьці расейскіх і ўкраінскіх выдаўцоў былі малапрыкметныя.

Беларускі камітэт самапомачы ў Бэрліне толькі ў другой палове 1942 г. пачаў спарадычна выпускаць кнігі і брашуры, што было заслугай Міколы Абрамчыка і яго жонкі Ніны. Стараньнем Абрамчыка летам 1942 г. БКС выдаў дзьве кнігі — Якуба Коласа "Сымон–музыка" і зборнік вершаў Ларысы Геніюш "Ад родных ніў". Першая зь іх была перадрукам даваеннага віленскага выданьня, а другую падрыхтаваў да друку Вітаўт Тумаш, карыстаючыся тэкстамі, апублікаванымі ў "Раніцы" і атрыманымі ад аўтаркі з Прагі. Абедзьве кнігі былі аднначасова надрукаваныя ў праскай друкарні "Палітыка" і ў верасьні 1942 г. рэклямаваліся на старонках "Раніцы".

Згодна з агульнапрынятым правілам бібліяграфіі, месцам выданьня кнігі лічыцца сядзіба выдавецтва, а не друкарні. Для прыкладу: ВШПЛМ частку сваіх кніг друкавала ў Вільні, але месцам іх выданьня заўсёды лічыўся Менск. Аднак на выдадзеных бэрлінскім камітэтам кнігах Коласа і Геніюш як месца іх выданьня пазначана Прага. Прычына гэтай недакладнасьці невядомая. У той час Чэхія была не самастойнай дзяржавай, а пратэктаратам у складзе Нямеччыны, у сувязі з чым абедзьве кнігі выйшлі з паметкай *Printed in Germany*.

---

[46] Раніца. 1942. 19 ліпеня і 4 кастрычніка.

[47] Раніца. 1943. 21 лістапада і 1994. 22 студзеня.

Пасьля вайны ня раз распаўсюджваліся выказваньні пра канфіскацыю нямецкімі ўладамі кнігі Я. Коласа "Сымон–музыка", прычынай чаго было знаходжаньне аўтара ў СССР. Невядома, у якой ступені гэтыя зьвесткі адпавядалі сапраўднасьці. Пад кантролем нямецкай цэнзуры выйшла ня толькі кніга Я. Коласа, але і "Беларуская граматыка" камуніста Б. Тарашкевіча, а сям–там ставіліся гурткамі мастацкай самадзейнасьці п'есы Купалы, які таксама быў эвакуаваны ў СССР. Пра канфіскацыю нічога не было вядома, напрыклад, у варшаўскім беларускім камітэце, які бесьперашкодна распаўсюджваў Коласаву кнігу. Урэшце, нельга ігнараваць і паведамленьня "Раніцы" ад 9/16.05.1943 пра поўны распродаж выдадзеных БКС кніг Я. Коласа і Л. Геніюш.

У кнігавыдавецкай дзейнасьці ў Нямеччыне брала ўдзел таксама жонка Міколы Абрамчыка Ніна Ляўковіч–Абрамчык. У 1942/43 г. яна апрацавала і выдала пад грыфам БКС, або яго бэрлінскай філіі, пяць рознай велічыні кніг. Усе яны выдаваліся лацінкай, ратататарнай тэхнікай з пазнакай "на правох рукапісу".

Першым выданьнем гэтай сэрыі быў невялікі зборнік папулярных песень і патрыятычных вершаў пад загалоўкам "Беларусь у песьнях", які, мяркуючы па рэклямных аб'явах "Раніцы", зьявіўся не пазьней верасьня 1942 г. Неўзабаве была надрукаваная кніга "Гісторыя Беларусі ў картах", апрацаваная паводле лекцыяў, якія ў 1941/42 г. чытаў Мікола Абрамчык на курсах беларусаведы ў Бэрліне. Кніга ілюстравалася 12 гістарычнымі картамі і малюнкамі Баляслава Барткевіча. Выйшла яна накладам 3500 асобнікаў і распаўсюджвалася, між іншым, у беларускіх школах Беласточчыны і Варшавы.

Пад канец 1942 г. выйшлі брашура "25 сакавіка" і апрацаваны айцом Віктарам Шутовічам зборнік 20 беларускіх калядак пад загалоўкам "Калядныя песьні". Выдавецкую сэрыю Ніны Абрамчык закончыў апрацаваны ёю і выдадзены вясной 1943 г. зборнік 30 беларускіх папулярных песень, рамансаў і прыпевак "Пад гоман вясёлы".

Пад канец лістапада ці на пачатку сьнежня 1943 г. Абрамчыкі выехалі ў Парыж, аднак да таго часу не праяўлялі ў Бэрліне новых выдавецкіх ініцыятыў. Магчыма, на гэта паўплываў слабы попыт на ратататарныя выданьні лацінскім алфавітам, якія залежваліся і цэлыя два гады не сыходзілі з рэклямных аб'яваў "Раніцы".

Апошнім выданьнем БКС быў передрукаваны зь "Беларускай Газэты" "Тэстамэнт" Уладзімера Жылкі. Ён выйшаў у палове 1944 г. у выніку стараньняў Антона Адамовіча, які высока цаніў гэты твор. З агульнай колькасьці 8 выданьняў БКС толькі зборнік вершаў Ларысы Геніюш быў новаапрацаванай кнігай, а ўсе астатнія — передрукам раней апублікаваных твораў.

Акрамя Бэрліна, беларускія кніжкі выдаваліся ў Празе. У першай палове 1942 г. стараньнем Янкі Станкевіча праская філія БКС выпусьціла "Арытмэтыку" З. Дабрынскай, а ў 1943 г. Васіль Русак выдаў ці перавыдаў свой зборнік "Беларускія (крывіцкія) песьні".

Выдавецкая дзейнасьць у Бэрліне ажывілася ў другой палове 1944 г. У канцы ліпеня сюды прыбыў зь Беластоку былы рэдактар "Новай Дарогі" Хведар Ільляшэвіч, які працаваў у рэдакцыі "Раніцы" і, нягледзячы на мізэрныя пэрспэктывы, спрабаваў рэалізаваць свае выдавецкія праекты. Фактычна, Чырвоная Армія, што спынілася ўлетку 1944 г. на Вісьле, набіраючы сілы для канчатковага наступленьня, дала яму на тое некалькі месяцаў часу.

Гэты час Х. Ільляшэвіч скарыстаў для выпуску сямі кніжак у сэрыі "Народная бібліятэчка": Ю. Віцьбіча "Нацыянальныя сьвятыні" і "Вяліскія паўстанцы. Гэньдзікаўскія змагары", У. Глыбіннага "Смаленшчына — адвечная беларуская зямля", А. Музыкі "Прыгоды Панаса і Тараса", Л. Радзіміча "Адам і Ева", "Чабор", М. Шчаглова "Беларуская музычная культура", а таксама зборнік "Дудар", у які ўвайшлі апавяданьні В. Ластоўскага, М. Гарэцкага, А. Савіцкай, Ядвігіна Ш., А. Падгорнага і С. Палескага.

Шэсьць першых кніг былі надрукаваны на газэтнай паперы, яны мелі аднолькавы фармат і аб'ём (31—32 старонкі). Гэта дазваляе меркаваць, што яны выйшлі як дадатак

да “Раніцы”. Сёмая кніга “Дудар” выйшла ў той самай сэрыі “Народная бібліятэчка”, але з пазнакай *Vineta*, відавочна, яна была апрацаваная ў беларускім аддзеле гэтага выдавецтва, які да сьнежня 1944 г. існаваў у рамках бэрлінскага міністэрства прапаганды. “Дудар” выйшаў прыкладна ў тым самым фармаце, што і папярэднія кнігі гэтай сэрыі, але ўдвая большым аб’ёме. Яго выпусьціла дзяржаўнае выдавецтва іншамоўнай літаратуры.

Таксама ў другой палове 1944 г. у Бэрліне была заснавана невядомым выдаўцом іншая сэрыя — “Бібліятэчка каліноўцаў”, у рамках якой выйшла толькі адна кніга — трэцяе, пашыранае Я. Найдзюком выданьне В. Ластоўскага “Што трэба ведаць кажнаму беларусу”. Хутчэй за ўсё і яна была выдадзена як дадатак да “Раніцы”.

Летам 1944 г. пасьля адступленьня з акупаваных тэрыторыяў СССР нямецкія ўлады паступова абмяжоўвалі прапагандысцкую ролю “Вінэты”. Урэшце 1 сьнежня яе беларускі аддзел быў падпарадкаваны Беларускай цэнтральнай радзе ў Бэрліне і працягваў дзейнічаць як Беларускае інфармацыйнае бюро (БІБ).

У сьнежні 1944 г. БІБ выпусьціла апрацаваную яшчэ ў жніўні брашуру К. Езавітава “Беларуская Цэнтральная Рада адзіны правамоцны прадстаўнік беларускага народу” і плянавала выданьне выступленьня М. Шкялёнка на другім усебеларускім кангрэсе ў Менску ў якасьці брашуры пад загалоўкам “Беларускі народ уневажняе бяспраўныя пастановы”, а таксама іншую брашуру К. Езавітава “Ўсебеларускі кангрэс”. Паводле інфармацыі айца А. Надсана, дырэктара Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, быў зроблены друкарскі набор брашур і былі змакетаваныя адбіткі для карэктуры, але наўрад ці пасьпелі іх надрукаваць. З–за гэтага абедзьве брашуры БІБ у наш каталёг ня ўлучаны.

Таксама, як у Менску, Рызе, Беластоку і Варшаве, некаторыя кнігі, падрыхтаваныя да друку ў Бэрліне, ня ўбачылі сьвету з прычыны ваенных дзеяньняў. Летам 1944 г. П. Бакач закончыў апрацоўку нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры, якія ў хуткім часе меліся быць надрукаваныя на беларускай і нямецкай мовах[48]. Пакуль што невядома пра лёс гэтай кнігі — ці яна загінула ў вогненным Бэрліне, ці захаваўся недзе яе рукапіс. Пад канец 1944 г. згарэў у бэрлінскай друкарні зборнік беларускіх народных песень і ўласных музычных твораў М. Равенскага[49]. Такі ж лёс спаткаў і кнігу Я. Кіпеля “Беларусы ў савецкіх канцлягерох”, якая была падрыхтавана да выданьня ў “Вінэце” і ў лютым 1945 г. загінула падчас бамбардаваньня Бэрліна[50].

Ня ўсё, аднак, зьнішчалі саюзьніцкія бомбы, прыкладам чаго быў лёс “Нямецка–беларускага слоўніка” (27 тыс. слоў), апрацаванага Аляксандрам Калошам, Васілём Камароўскім і Янам Пятроўскім. Пасьля падпісаньня з выдавецтвам *Bernard und Graefe* дамовы на яго выданьне 10 сьнежня 1942 г. складальнікі перадалі выдавецтву рукапіс, атрымалі прадбачаную дамовай частку ганарару і пачалі распаўсюджваць у прэсе паведамленьне пра яго хуткі выпуск. Пра гэта пісалі ня толькі “Беларуская Газэта” (1943. 16 студзеня) і “Новая Дарога” (1943. 7 студзеня), але нават пскоўская “За родину” (1943. 2 февраля). Паведамляўся нават тэрмін выпуску — пачатак сакавіка 1943 г.

Тым часам складальнікі чакалі карэктуры і рыхтавалі другую частку — “Беларуска–нямецкі слоўнік”. Аднак у лютым 1943 г. выдавецтва адмовілася надрукаваць слоўнік. На запытаньне аўтара Я. Пятроўскі ня выявіў прычыны рашэньня выдавецтва[51]. Ня выявіў яе адкрыта ён і ў сваіх “Мэмуарах”, аднак зьмешчаная ў іх крытыка паводзін суаўтараў А. Калошы і В. Камароўскага і іх мовазнаўчых кваліфікацыяў дазваляе мерка-

[48] Раніца. 1944. 6 жніўня.

[49] Равенскі М. Аўтабіяграфія // Спадчына. 2000. № 4. С. 208.

[50] Кіпель Я. Тамсама, с. 231.

[51] Пятроўскі Я. Ліст да аўтара ад 20.08.1986 (архіў аўтара).

ваць, што гэтай прычынай была марная якасьць аўтарскага матэрыялу[52].

Відаць, падобнай была якасьць апрацаванага ў 1942 г. вялікага зборніка публіцыстыкі У. Глыбіннага “Жыве Беларусь”. Аўтар прапаноўваў яго бадай усім беларускім выдаўцам, але ні яго захады, ні шумны патрыятычны загаловак не выклікалі іх зацікаўленьня. Як выявіла Алена Глагоўская, зборнік У. Глыбіннага закончыў сваю вандроўку ў аддзеле рукапісаў Акадэмічнай бібліятэкі ў Вільні.

## Нямецкія беларускамоўныя выданьні

Амаль пятую частку ўсіх выданьняў, выпушчаных у гадох II сусьветнай вайны на беларускай мове, складалі кнігі і брашуры, выдадзеныя нямецкімі выдаўцамі. Агулам выяўлена 19 тытулаў, зь якіх 17 захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы і Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусі. У каталёгу ня ўлічаны выдадзены ў лютым 1944 г. нямецкім выдавецтвам Франка ў Рызе “Нямецка–расейска–беларуска–польскі ілюстраваны слоўнік”, прызначаны для нямецкіх вайскоўцаў. Агульная колькасьць беларускамоўных нямецкіх выданьняў, напэўна, была большая, і можна спадзявацца, што некаторыя зь іх будуць выяўлены ў будучыні.

Зь ліку нямецкіх выданьняў толькі нямногія мелі практычны ўжыткоўны характар. Да іх адносяцца выдадзены ў 1942 г. паштовым упраўленьнем “Сьпіс абанэнтаў Менскай аўтаматычнай тэлефоннай сеткі” і “Кароткая інструкцыя Цэнтральнага гандлёвага таварыства «Ўсход»”. Да гэтай катэгорыі выданьняў можна яшчэ залічыць апрацаваны Гансам Лёе невялікі “Нямецка–беларускі слоўнік” (Бэрлін, 1944), які прызначаўся для нямецкіх службоўцаў, але маглі ім карыстацца і беларусы.

Аднак пераважную частку нямецкіх выданьняў складалі папулярныя брашуры, якія прызначаліся для палітычнай прапаганды і дыскрэдытацыі савецкага рэжыму, апатэозу нацыянал–сацыялістычнай Нямеччыны і яе правадыра Адольфа Гітлера, схіленьня насельніцтва акупаваных усходніх абшараў да супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі.

На вокладках 13 прапагандысцкіх брашур (гл. каталёг, № 105—117) акрамя загалоўкаў і зрэдку аўтараў не падаваліся ніякія бібліяграфічныя дэталі, у прыватнасьці, месца і год выпуску, выдавецтва і месца надрукаваньня, неабходныя для ідэнтыфікацыі іх паходжаньня. Усё ж адна акалічнасьць дае такую магчымасьць: прапагандысцкія брашуры выдаваліся на некалькіх мовах народаў акупаваных тэрыторыяў СССР (аўтару вядомы беларускі, расейскі і літоўскі варыянты брашуры “Гітлер і дзеці”), прычым ня бралася пад увагу нацыянальная спэцыфіка адрасатаў выданьня. А гэта значыць, што іх выдаўцом былі не прапагандысцкія службы ў Менску, але цэнтральная арганізацыя ў Бэрліне. Такой арганізацыяй была “Вінэта” — спэцыялізаванае выдавецтва, створанае ў 1941 г. у рамках міністэрства прапаганды. У “Вінэце” дзейнічаў таксама беларускі аддзел, у якім пад кіраўніцтвам Яна Пятроўскага працавала група беларускіх перакладчыкаў.

Іншай установай, якая імкнулася разгарнуць выпуск прапагандысцкіх беларускамоўных брашур, было прэсавае выдавецтва генэральнага камісарыяту ў Менску. Асноўнай сфэрай яго дзейнасьці сталі пэрыядычныя выданьні — газэты, часопісы, календары, а таксама радыёвяшчаньне і плякаты, аднак з восені 1942 г. выдавецтва пачало рыхтаваць сэрыю брашур пад грыфам “Новая пара”. 15 красавіка 1943 г. “Беларуская Газэта” паведаміла пра выпуск першага сшытка сэрыі пад загалоўкам “Праваднік для жадаючых адбудовы Беларусі”, які быў прысьвечаны прапагандзе ідэі “Новай Эўропы” і супрацоўніцтва яе народаў. Аднак пра выпуск наступных сшыткаў прэса больш не

[52] Пятроўскі Я. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце (1905—1945). Кніга першая. Слуцак—Ґэйнсвільл, 1988. С. 320—321.

паведамляла. Магчыма, на першым сшытку і закончылася плянаваная сэрыя.

Прапагандысцкі характар мела і невялікая кніга П. Штыра "Слова да маладых людзей", выдадзеная ў палове 1944 г. міністэрствам акупаваных усходніх абшараў. Яна прызначалася беларускай моладзі, якая вясной 1944 г. апынулася ў Нямеччыне, і заклікала яе да працы і змаганьня за ідэалы "Новай Эўропы".

## 2. Алфавітны каталёг кніг і брашур

Тлустым шрыфтам пазначаныя ў каталёгу прозьвішчы ці псэўданімы (крыптанімы) аўтараў і поўныя загалоўкі кніг і брашур згодна з арыгінальным правапісам і альфавітам выданьня.

У канцы каталёгу асобна пададзены сьпіс нямецкіх прапагандысцкіх брашур, на якіх адсутнічаюць асноўныя бібліяграфічныя дэталі.

**1. АЛЯХНОВІЧ ФРАНЦІШАК. Круці, не круці — трэба памярці. Сцэнічны гротэск у шасьцёх абразкох з пралёгам.** Менск: выд. часопіса "Новы Шлях", 1944. — 79 с. Фармат 11x15 см. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 31 мая.

**2. АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ. Сягоньня. Вершы 1941—1943.** Менск: выд. ВШПЛМ. Друкарня "Аўшра" ў Вільні, 1944. — 127 с. Фармат 14x20 см. Накл. 5000 асобнікаў, цана РМ 5,00. Месца захаваньня — НББ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 31 мая. ("гэтымі днямі выйшла"). Рэцэнзіі: Альгердзіч Г. Беларускага слова жніво // Раніца. 1944. 30 ліпеня; Дальны М. На новай хвалі // Новая Дарога. 1944. 28 мая; Лагода М. Сягоньня // Пагоня. 1944. 31 мая; Палявы А. Сардэчны накіп // Газэта Случчыны. 1944. 4 чэрвеня.

**3. БАКАЧ П. Падручнік нямецкага языка для Беларусаў.** Бэрлін: выд. Бэрнард і Грэфэ, 1941. — 357 с. Фармат 11x17 см. Месца захаваньня — Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве. Загаловак таксама па–нямецку: Bakatsch P. Lehrbuch der deutschen Sprache für Weissruthenen.

Інф.: Раніца. 1941. 30 мая.

**4. БЕЛАРУСКІ ЛЕМАНТАР "Зорка".** Баранавічы: выд. БНС, 1942.

Інф.: Голас Вёскі. 1943. 11 лютага.

**5. БЕЛАРУСКІ праваслаўны малітвеньнік. З багаслаўленьня Блажэньнейшага Дзянісія Мітрапаліта Варшаўскага.** Варшава: выд. Беларускага Царкоўнага Брацтва ім. Сьвятога Юрага ў Варшаве, друк Праваслаўнай Мітрапалітальнай Друкарні ў Варшаве, 1943. — 15 с. Фармат 12x16 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Раніца. 1943. 14 сакавіка.

**6. БЕЛАРУСКІ праваслаўны патэрык. Першы сшыток. З багаслаўленьня Блажэньнейшага Дзянісія Мітрапаліта Варшаўскага.** Варшава: выд. коштам Беларускага Царкоўнага Брацтва ім. Сьвятога Юрага ў Варшаве, друк Праваслаўнай Мітрапалітальнай Друкарні ў Варшаве, 1943. — 24 с. Фармат 15×24 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Раніца. 1943. 14 сакавіка.

**7. БЕЛАРУСКІЯ (крывіцкія) песьні для соля, дуэту, квартэту з акампанімэнтам фортэпяна і 4 народныя танцы.** Прага: выд. В. Русака, 1943. — 65 с.

Інф.: Раніца. 1944. 16 студзеня.

**8. BIEŁARUŚ u pieśniach. Zborničak patryjatyčnaj paeziji.** Бэрлін: выд. Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, рататар, 1942. — 40 с. Фармат 15x21 см. Цана РМ 0,50. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

Інф.: Раніца. 1942. 20 жніўня.

**9. ВЕРАС ЎСЕВАЛАД. Як створым нашую сілу.** Бэрлін: б.м., б.г., ратaтар, 1941. — 12 с. Фармат 15х21 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

**10. ВЕРЕС У. Шляхом барацьбы Беларусі з Москвою.** Бэрлін: б.м., б.г., ратaтар, 1941. — 20 с. Фармат 15х21 см. Месца захаваньня — НАРБ, калекцыя аўтара.

**11. ВІЦЬБІЧ ЮРКА. Нацыянальныя сьвятыні. Мастацкія нарысы.** Бэрлін: Народная Бібліятэчка № 1, 1944. — 31 с. Фармат 11х15,5 см. Цана РМ 0,50. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

Інф.: Раніца. 1944. 17 сьнежня.

**12. ВІЦЬБІЧ ЮРКА. Вялікія паўстанцы. Гэньдзікаўскія змагары.** Бэрлін: Народная Бібліятэчка № 4. 1944. — 32 с. Фармат 11х14 см. Цана РМ 0,50. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

Інф.: Раніца. 1944. 17 сьнежня.

**13. VUČYSIA I MALISIA. Malitaŭničak vučnia–katalika Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii i Vilenskaj Vučycielskaj Seminaryi.** Улажыў кс. Адам Станкевіч. Вільня, друкарня “Patria”, 1944. — 96 с. Фармат 8х12 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 29 сакавіка.

**14. VYBRANYJA biełaruskija narodnyja kazki. Knižka dla dziaciej i moładzi. Vybraŭ Jazep Najdziuk.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня ў Вільні, 1944. — 96 с. Фармат 15х21 см. Цана РМ 3,50. Месца захаваньня — НББ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 10 чэрвеня. (“гэтымі днямі выйшла”).

**15. ВЯСНА–КРАСНА. Зборнічак веснавых беларускіх песьняў.** Сабраў і падрыхтаваў да друку Я. Найдзюк, гарманізацыя М. Шчаглова і іншых кампазытараў. Менск: выд. ВШПЛМ, друк МВДТ, 1943. — 16 с. Фармат 14х20,5 см. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1943. 6 мая.

**16. ГЕНІЮШ ЛАРЫСА. Ад родных ніў. Вершы.** Прага: выд. Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, друкарня “Палітыка” ў Празе, 1942. — 152 с. Фармат 15х21 см. Цана РМ 2,30. Месца захаваньня — калекцыя Баляслава Манкевіча ў Варшаве.

Інф.: Раніца. 1942. 20 верасьня; Рэцэнзіі: Дальны М. Пад чужым небам // Новая Дарога. 1942. 27 верасьня.; С.Т. Пясьнярка на чужыне // Раніца. 1942. 4 кастрычніка.

**17. HISTORYJA Biełarusi ŭ kartach. Pavodle lekcyj čytanych ing. M. Abramčykam na kursach biełarusaviedy ŭ Berlinie 1941—42 h.** Апрацавала Ніна Абрамчык. Бэрлін: выд. Бэрлінскага аддзелу Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, на правах рукапісу, ратaтар, 1942. — 62 с. Фармат 21х29 см. Наклад 3500 ас., цана РМ 2,70. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Раніца. 1942. 6 сьнежня.

**18. ГЛЫБІННЫ У. Смаленшчына — адвечная беларуская зямля беларускага народу. Гістарычны нарыс.** Бэрлін: Народная Бібліятэчка № 2, 1944. — 32 с. Фармат 11х14 см. Цана РМ 0,50. Месца захаваньня — НАРБ.

Інф.: Раніца. 1944. 17 сьнежня.

**19. ДАБРЫНСКАЯ ЗОФІЯ. Арытмэтыка. Ад вучэньня ў школе й дома. Для 3 аддзела.** Прага: выд. Беларускага камітэту самапомачы ў Празе, друкарня “Палітыка”, 1942. — 84 с. Фармат 14,5х22 см. Наклад 2500 ас. Цана РМ 1,00. Месца захаваньня — НББ, Славянская бібліятэка ў Празе.

Інф.: Лісты Я. Станкевіча да К. Езавітава ад 19.07 і 31.08.1942 // Спадчына. 1999. № 5—6.

**20. DABRYNSKAJA Z., ZAVUŚCINSKI M. Zbornik arytmetyčnych zadačaŭ i prykładaŭ na II klasu narodnaje škoły.** Менск: выд. БШПЛМ, друкавалася ў Вільні, 1943. — 104 с. Фармат 15х21 см. Накл. 50 000 ас. Цана РМ 2,00. Месца захаваньня — НАРБ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 19 студзеня. (“выйшаў у сьнежні 1943 г.”).

**21. DABRYNSKAJA Z., ŠYRYNSKI P. Zbornik arytmetyčnych zadačaŭ i prykładaŭ na I klasu narodnaje školy.** Менск: выд. ВШПЛМ, друк у Вільні, 1943. — 88 с. Фармат 15х21 см. Наклад 50 000 ас. Цана РМ 2,00. Месца захаваньня — НАРБ.

Інф.: Беларуская Газэта 1944. 19 студзеня. (“выйшаў у сьнежні 1943 г.”).

**22. 25–ЛЕЦЬЦЕ Беларускае Гімназіі ў Вільні 1919—1944.** Вільня: выд. Беларускае Гімназіі ў Вільні, 1944. — 46 с. Фармат 14х19 см. Тэкст кірыліцай і лацінкай. Месца захаваньня — НАРБ.

**23. 25 SAKAVIKA.** Бэрлін: выд. Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, ратататар, 1942. — 9 с. Фармат 21х29 см. Цана РМ 0,5. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

Інф.: Раніца. 1942. 6 сьнежня.

**24. ДУДАР і іншыя апавяданьні.** Бэрлін: выд. Фрэмдшпрахэн–Фэрляг. Беларуская Народная Бібліятэчка Vineta, Т. 7, 1944, — 63 с. Фармат 10,5х14,5 см. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

**25. ЕЗАВІТАЎ К. Беларуская Цэнтральная Рада адзіны правамоцны прадстаўнік беларускага народу.** Бэрлін: выд. Беларускага інфармацыйнага бюро, друк, 1944. — 12 с. Фармат 13х20 см. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

**26. ЕЗАВІТАЎ К. Беларуская школа. Першая чытанка пасьля лемантара.** Выд. трэцяе. Рыга: выд. К. Езавітава, Трэцяя рыская друкарня, 1943, лістапад. — 160 с. Фармат 15х20 см. Наклад 3000 ас. Цана РМ 3,00. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Раніца. 1944. 9 студзеня.

**27. ЕРМАЧЭНКО Я. Пранцы (сыфіліс).** Прага: Беларускае выдавецтва Яна Ермачэнкі, ратататар. Карэспандэнцыйныя курсы беларусаведы, 1941. — 10 с. Месца захаваньня — Славянская бібліятэка ў Празе.

**28. ЖЫЛКА ЎЛАДЗІМЕР. Тэстамэнт.** Бэрлін: выд. Бэрлінскага аддзелу Беларускага камітэту самапомачы, ратататар, 1944. — 21 с. Фармат 13х20 см. Цана РМ 0,50. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

Інф.: Раніца. 1944. 23 ліпеня.

**29. ЗБОРНІК купальскіх і жніўных беларускіх песьняў.** Апрацоўка М. Шчаглова і А. Туранкова. Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня МВДТ, 1943. — 36 с. Фармат 14,5х20 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Беларуская Газэта. 1943. 17 ліпеня. (“днямі выйшаў”).

**30. ЗБОРНІК сцэнічных твораў (Пінская шляхта, Модны шляхцюк, Чорт і баба, Зьбянтэжаны Саўка, Мікітаў лапаць, Міхалка).** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня МВДТ, 1943 — 80 с. Фармат 15х20 см. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

Інф.: Голас Вёскі. 1943. 22 ліпеня. (“выдадзены ў ліпені 1943 г.”).

**31. ЗІНЧУК М. Палыночак. Беларуская народная песьня для высокага голасу.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1942, лістапад. — 4 с. Фармат 20х27 см. Наклад 2000 ас. Цана РМ 0,80. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

Інф.: Раніца. 1943. 7 лютага.

**32. ІНСТРУКЦЫЯ аб правядзеньні пераводаў з клясы ў клясу і аб выпускных зкзаменах у народных беларускіх школах.** Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, друкарня МВДТ, 1942. — 7 с. Фармат 14,5х21 см. Месца захаваньня — НББ.

**33. КАЛЫНЬШ. Смалакурэньне.** 1944. — 240 с. Цана РМ 11,60.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 19 красавіка.

**34. KALADNYJA pieśni.** Апрацаваў а. В. Шутовіч. Бэрлін: выд. Бэрлінскага аддзелу Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, ратататар, 1942. — 19 с. Фармат 15х21

см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

**35. КАМАРОЧАК. Беларуская народная песьня.** Выданьне К. Езавітава, малюнкі А. Бяльцовай, Рыга, 1944.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 20 мая.

**36. КАРОТКАЯ інструкцыя па выкананьню рахунковага пляну бухгальтарскага вучоту канторамі і прадпрыемствамі Цэнтральнага гандлёвага таварыства для ўсходу.** Менск: выд. Цэнтральнага гандлёвага таварыства “Ўсход”, 1942. — 48 с. Месца захаваньня — НАРБ.

**37. KAROTKI malitaŭnik dla biełarusaŭ–katalikoŭ.** Не пазначаныя месца і год выданьня, выдавец і друкарня [Менск, 1941. кс. др. Станіслаў Глякоўскі, друкарня Менскай гарадзкой управы]. — 14 с. Фармат 10x14 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Менская Газэта. 1941. 7 сьнежня.

**38. КАРОТКІ малітаўнік для беларусаў–каталікоў.** Не пазначаныя месца і год выданьня, выдавец і друкарня [Менск, 1941, кс. др. Станіслаў Глякоўскі, друкарня Менскай гарадзкой управы]. — 14 с. Месца захаваньня — калекцыя Антона Шукелойця, Нью–Ёрк.

Інф.: Менская Газэта. 1941. 7 сьнежня.

**39. KISIEL P. Biełaruski lemantar.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня “Minsker Zeitung”, 1942. — 32 с. Фармат 13,5x20,5 см. Месца захаваньня — бібліятэка Акадэміі навук Літвы ў Вільні.

**40. KISIEL P. Biełaruski lemantar.** Менск: выд. ВШПЛМ, 1943. — 96 с.

Інф.: Беларуская Газэта. 1943. 9 чэрвеня; рэцэнзія П. Санчыка: Новая Дарога. 1943. 3 кастрычніка.

**41. KISIEL P. Biełaruski lemantar.** Выданьне другое стэрэатыпнае. Менск: выд. ВШПЛМ, 1943. — 96 с. Наклад 30 000 ас. Цана РМ 1,50.

Інф.: Голас Вёскі. 1944. 25 лютага. (“гэтымі днямі выйшаў з друку”).

**42. КОЛАС ЯКУБ. Сымон Музыка. Поэма.** Прага: выд. Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, друкарня “Палітыка” ў Празе, 1942. — 212 с. Фармат 15x21 см.

Інф.: Раніца. 1942. 6 верасьня.; тамсама рэцэнзія Р. Максімовіча.

**43. ЛАСТОЎСКІ В. Што трэба ведаць кажнаму беларусу.** Выданьне другое, пашырыў Я. Найдзюк. Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня МВДТ, 1943. — 31 с. Фармат 11x17 см. Месца захаваньня — НАРБ, НББ.

Інф.: Голас Вёскі. 1943. 16 мая.

**44. ЛАСТОЎСКІ В. Што трэба ведаць кажнаму беларусу.** Выданьне трэцяе, пашырыў Я. Найдзюк. Бэрлін, друкарня “Бібліятэчка Каліноўцаў”, 1944. — 32 с. Фармат 12x16 см. Цана РМ 0,50. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Раніца. 1944. 17 сьнежня.

**45. ЛЕБЯДА ТОДАР. Песьні выгнаньня.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня “Аўшра” ў Вільні, 1944. — 32 с. Фармат 11x14 см. Наклад 5000 ас. Цана РМ 0,75. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 22 сакавіка.

**46. ЛЕМАН ОТТО. Нямецкія салдаты. Што трэба ведаць аб нямецкіх варужных сілах.** Бэрлін: выд. “Die Wehrmacht”, 1939. — 44 с. Фармат 14x20 см. Месца захаваньня — НАРБ.

**47. ЛЁЕ ГАНС. Нямецка–беларускі слоўнік.** Бэрлін: выд. Buchdruckerei Gerb. Radetzki, 1944. — 50 с.

Інф.: Раніца. 1944. 9 красавіка.

**48. ЛЁСІК АНТОН. Беларускі правапіс.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня МВДТ, 1943. — 61 с. Фармат 14x21,5 см. Наклад 100 000 ас. Месца захаваньня — НББ, калекцыя аўтара.

Інф.: Голас Вёскі. 1943. 9 верасьня. (“гэтымі днямі выйшаў з друку”).

**49. LOSIK ANTON. Biełaruski pravapis.** Менск: выд. ВШПЛМ, друк у Вільні. 1943. — 72 с. Фармат 15x21 см. Наклад 50 000 ас. Цана РМ 1,00. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Голас Вёскі. 1944. 25 лютага. (“гэтымі днямі выйшаў”).

**50. ЛЯСУН М. На крыжы. Апавяданьні.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня МВДТ, 1943. — 62 с. Фармат 10x14 см. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

Інф.: Голас Вёскі. 1943. 28 мая.

**51. МІКАЛАЕВІЧ М. 3 беларускія народныя песьні для хору (“Ты, чырвоная каліна”, “Ой, доля, мая доля”, “Кумачка”).** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943, май. Фармат 20x27 см. Цана РМ 1,00.

Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**52. МУЗЫКА АРЦЁМ. Прыгоды Панаса і Тараса.** Бэрлін: “Народная Бібліятэчка № 3”, 1944. — 32 с. Фармат 11x14 см. Цана РМ 0,50. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

Інф.: Раніца. 1944. 17 сьнежня.

**53. НАЙДЗЮК ЯЗЭП. Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі.** Выданьне другое, пашыранае. Менск: выд. ВШПЛМ, друк МВДТ, 1944, сакавік. — 304 с. Фармат 13x21 см. Наклад 25 000 ас. Цана РМ 5,00. Месца захаваньня — НББ, калекцыя аўтара.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 22 красавіка; рэцэнзія Р. Загорнага: Раніца. 1944. 23 ліпеня.

**54. НАРМАЛЬНЫ статут праваслаўных царкоўных брацтваў. З багаслаўленьня Блажэньнейшага Дзянісія Мітрапаліта Варшаўскага.** Варшава, выдадзена коштам Беларускага Камітэту і Беларускага Царкоўнага Брацтва ім. Сьвятога Юрага ў Варшаве, Сынадальная Друкарня, 1942. — 10 с. Фармат 12x16 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Раніца. 1942. 30 жніўня.

**55. НОВАЯ пара. Праваднік для жадаючых адбудовы Беларусі.** Сшытак I. Менск: выд. Прэсавага выдавецтва, 1943. — 16 с.

Інф.: Беларуская Газэта. 1943. 15 красавіка.

**56. ОЙ, ПРЫЙШЛА каляда. Зборнічак беларускіх калядных песьняў.** Апрацаваў М. Шчаглоў. Менск: выд. ВШПЛМ, друк МВДТ, 1942. — 16 с. Фармат 15x21 см. Наклад (паводле “Беларускай Газэты”. 1943. 18 сакавіка) 5000 ас. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

Інф.: Новая Дарога. 1943. 7 лютага; Голас Вёскі. 1943. 22 ліпеня (“выйшла на пачатку сёлетняга году”).

**57. PAD HOMAN viasioły. Zbornik papularnych pieśniaŭ, ramansaŭ i prypievak.** Сабрала Ніна Абрамчык. Бэрлін: выд. Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, на правах рукапісу, ратапрынт, 1943. — 37 с. Фармат 15x21 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Раніца. 1943. 9—16 мая.

**58. PATREBNIEJŠYJA vyniatki z Rytuału.** Перакл. і выд. кс. А. Станкевіча, Вільня, 1943. — 31 с.

Інф.: Божым Шляхам (Лёндан). 1972. № 132. С. 7.

**59. ПЕСЬНЯРЫ Случчыны.** Збор вершаў. Выдадзены пры ўдзеле Лявона Случаніна, Арыстарха Крота, Палікарпа Манькова. Пад рэдакцыяй Уладзімера Клішэвіча. Слуцак, 1943. — 233 с. Фармат 13,5x20 см. Месца захаваньня — БДАЛІМ, НББ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 12 лютага.

**60. ПРАГРАМА беларускай мовы для народнае школы.** Праект. Менск: выд.

Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 15 с. Фармат 14x21 см. Месца захаваньня — НАРБ, НББ.

**61. ПРАГРАМА геаграфіі для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 16 с. Фармат 14x21 см. Месца захаваньня — НАРБ, НББ.

**62. ПРАГРАМА гісторыі для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 16 с. Фармат 14x21 см. Месца захаваньня — НББ.

**63. ПРАГРАМА грамадазнаўства для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 2 с. Фармат 15x22 см. Месца захаваньня — НББ.

**64. ПРАГРАМА матэматыкі для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 16 с. Фармат 14x21 см. Месца захаваньня — НАРБ.

**65. ПРАГРАМА нямецкай мовы для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 8 с. Фармат 14x21 см. Месца захаваньня — НАРБ.

**66. ПРАГРАМА прыродазнаўства для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі. Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 16 с. Фармат 15x22 см. Месца захаваньня — НББ.

**67. ПРАГРАМА ручной працы для народнай школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 8 с. Фармат 14x21 см. Месца захаваньня — НАРБ, НББ.

**68. ПРАГРАМА рысаваньня для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 4 с. Фармат 15x21 см. Месца захаваньня —НББ.

**69. ПРАГРАМА сьпеваў і музыкі для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 4 с. Фармат 14x19 см. Месца захаваньня — НББ.

**70. ПРАГРАМА фізыкі для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 8 с. Фармат 14x21 см. Месца захаваньня — НАРБ.

**71. ПРАГРАМА фізычнага ўзгадаваньня для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 32 с. Фармат 14x21 см. Месца захаваньня — НАРБ, НББ.

**72. ПРАГРАМА хіміі для народнае школы.** Праект. Менск: выд. Інспэктарату беларускіх школаў пры Генэральным камісары Беларусі, Краёвая друкарня ў Менску, 1941. — 2 с. Фармат 13x18,5 см. Месца захаваньня — НББ.

**73. РАДЗІМІЧ ЛЯВОН. Адам і Ева. Чабор. Апавяданьні.** Бэрлін: “Народная Бібліятэчка № 5”, 1944. — 32 с. Фармат 11x14 см. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

**74. REŠEĆ J. ks. dr. Karotki katechizm dla biełarusaŭ–katalikoŭ.** Выданьне другое. Менск: выд. кс. др. Станіслава Глякоўскага, менская гарадзкая друкарня, 1941. — 47 с. Фармат 10x14 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара.

Інф.: Менская Газэта. 1941. 7 сьнежня.

**75. САЛАВЕЙ АЛЕСЬ. Мае песьні. Зборнік лірыкі.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня “Рота” ў Рызе, 1944, ліпень. — 96 с. Фармат 15x21 см. Наклад 3000 ас. Цана РМ 3,00. Месца захаваньня — калекцыя аўтара (асобнік з дэдыкацыяй Н. Арсеньневай, Бэрлін. 18.09.1944).

Інф. і рэцэнзія: Раніца. 1944. 10 верасьня.

**76. САМОХІНА Т. Непагодны вечар. Раманс на словы М. Багдановіча, музыка Р. Самохіна, для высокага голасу.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня "Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса", 1942, лістапад. — 4 с. Фармат 20х27 см. Наклад 2000 ас. Цана РМ 0,80. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

Інф.: Раніца. 1943. 7 лютага.

**77. СЛОВА для маладых людзей. Першы сшыток з раду пісьмаў, выдадзеных для эўрапэйскае моладзі, працуючае для вайны.** Апрацаваў фэльдфэбель др. П. Штыр. Бэрлін: выд. райхсьміністэрства для занятых усходніх абшараў, установа гаўптбанфюрэра Нікеля, 1944. — 24 с. Фармат 15х21 см. Месца захаваньня — НАРБ.

**78. СЛУЧАНІН ЛЯВОН. Рагнеда. Паэма.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня "Аўшра" ў Вільні, 1944, май. — 63 с. Фармат 11х14 см. Наклад 5000 ас. Месца захаваньня — БДАЛІМ, НББ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 31 мая; рэцэнзія Г. Альгердзіча: Раніца. 1944. 15 кастрычніка.

**79. СПАСКІ А. Астры. Раманс на словы М. Багдановіча для высокага голасу.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня "Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса", 1943, студзень. — 8 с. Фармат 20х27 см. Наклад 2000 ас. Цана РМ 1,00. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**80. СТАНКЕВІЧ Я. пры ўчасьці Ант. Адамовіча. Маленькі маскоўска–беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразэолёгічны і прыказкаў ды прывітаньні, зычэньні і інш.** Менск: выд. ВШПЛМ, друк МВДТ, 1944. — 151 с. Фармат 9х14 см. Цана РМ 2,00. Месца захаваньня — НББ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1944. 10 ліпеня. ("гэтымі днямі выйшла").

**81. СТАНКЕВІЧ ЯН. Курс беларускае мовы.** Прага: Беларускае выдавецтва Яна Ермачэнкі, рататар, "Карэспандэнцыйныя курсы беларусаведы", 1941. Лекцыя першая — 12 с. Лекцыя другая — 13—20 с. Месца захаваньня — Славянская бібліятэка ў Празе.

**82. СТАНКЕВІЧ ЯН. Курс гісторыі Крывіі–Беларусі.** Прага, Беларускае выдавецтва Яна Ермачэнкі, рататар, "Карэспандэнцыйныя курсы беларусаведы", 1941. Лекцыя першая — 7 с. Лекцыя другая — 8—21 с. Лекцыя трэцяя — 22—31 с. Фармат 20х29 см. Месца захаваньня — Славянская бібліятэка ў Празе, Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

**83. СТАНКЕВІЧ Я. др. Крыўя–Беларусь у мінуласьці (Адбітка зь "Менскае Газэты" з 12.11.1941 — 31.01.1942).** Менск: выд. Беларускай народнай самапомачы, друкарня МВДТ, 1942. — 70 с. Фармат 12х17,5 см. Наклад (паводле "Беларускай Газэты". 1943. 18 сакавіка) 50 000 ас. Месца захаваньня — калекцыя аўтара, НББ.

Інф.: Ліст Янкі Станкевіча ад 31.08.1942; Спадчына. 1999. № 5—6. С. 63.

**84. STANKIEVIČ J. Lemantar pierachodny z łacinicy na kirylicu.** Менск: выд. Беларускае народнае самапомачы, 1942. — 16 с. Фармат 15х21 см. Месца захаваньня — калекцыя аўтара, НББ.

Інф.: Беларуская Газэта. 1942. 31 кастрычніка.

**85. СТАНКЕВІЧ Я. Кніжка вучыцца чытаць і пісаць лацінкаю з укладаньнямі.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня ў Вільні, 1943. — 48 с. Фармат 14х22 см. Наклад 10 000 ас. Цана РМ 1,00. Месца захаваньня — НББ.

Інф.: Раніца. 1944. 9 студзеня.

**86. СТАТУТ Беларускага аб'яднаньня.** Рыга, 1943.

Інф.: Раніца. 1943. 25 ліпеня. ("гэтымі днямі выйшаў на беларускай і нямецкай мовах").

**87. СТРАЯВЫ вайсковы статут. Перапрацаваў зь нямецкага вайсковага статуту (Ausbildungsvorschrift für die Infanterie, Heft 2—a) падпаручык арт. Мікула Віталі.** Менск: выд. ВШПЛМ, друкарня МВДТ, 1943. — 31 с. Фармат 14х20 см. Наклад (паводле "Беларускай Газэты". 1943. 18 сакавіка.) 10 000 ас. Месца захаваньня

— Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане, НББ.
Інф.: Голас Вёскі. 1943. 5 лютага.

**88. СЬПІС абанэнтаў Менскай аўтаматычнай тэлефоннай станцыі на 1 лютага 1942 г.** Менск: выд. Deutsche Dienstpost. 1942. — 29 с. Месца захаваньня — НАРБ.

**89. СЯДНЁЎ М. Ахвяры бальшавізму. Зборнік успамінаў і артыкулаў.** Беласток: выд. Беларускага аб’яднаньня, друкавалася ў Кёнігсбэргу, 1944. — 64 с. (?) Цана РМ 1,50.
Інф.: Раніца. 1944. 22 лістапада.

**90. ТАРАШКЕВІЧ Б. Беларуская граматыка.** Выданьне шостае. Менск: выд. ВШПЛМ, Краёвая друкарня 2, 1943. — 104 с. Фармат 15х21 см. Наклад 100 000 ас. Цана РМ 2,00. Месца захаваньня — БДАЛІМ.
Інф.: Беларуская Газэта. 1943. 6 сьнежня.

**91. ТАРАШКЕВІЧ Б. Беларускі правапіс.** Менск: выд. “Менск”, друкарня Менскай гарадзкой управы, 1941. — 24 с. Фармат 15х21 см. Наклад 20 000 ас. Цана 2 рублі. Месца захаваньня — Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.
Інф.: Менская Газэта. 1941. 28 верасьня.

**92. ТУРАНКОЎ А. Вечар. Раманс на словы А. Гурло для тэнара з фортэпіяно.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943, май. — 4 с. Фармат 20х27 см. Цана РМ 0,80.
Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**93. ТУРАНКОЎ А. Лета. Раманс на словы Ф. Чарнушэвіча для сопрано альбо тэнара.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943, май. — 4 с. Фармат 20х27 см. Цана РМ 0,80.
Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**94. ТУРАНКОЎ А. Лявоніха. Раманс на словы М. Багдановіча для тэнара і барытона.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943, май. — 4 с. Фармат 20х27 см. Цана РМ 0,80.
Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**95. ТУРАНКОЎ А. Маладыя гады. Раманс на словы М. Багдановіча для тэнара з фортэпіяно.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943. — 6 с. Фармат 20х27 см. Цана РМ 1,00.
Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**96. ТУРАНКОЎ А. 7 беларускіх рамансаў для аднаго і двух галасоў з акомпанімэнтам фортэпіяно на словы беларускіх паэтаў: М. Багдановіча “Маладыя гады”, “Слуцкія ткачыхі”, “Лявоніха”, А. Гурло “Вечар”, В. Дуніна–Марцінкевіча “Ў садочку цьвітучым”, Цёткі (А. Пашкевіч) — “Скрыпка”, Ф. Чарнушэвіча “Лета”.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943, май. — 28 с. Фармат 20х27 см. Наклад 2000 ас. Цана РМ 5,00. Месца захаваньня — Нацыянальная бібліятэка Латвіі ў Рызе.
Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**97. ТУРАНКОЎ А. Скрыпка. Раманс на словы Цёткі (А. Пашкевіч) для мэццо–сопрано.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943, май. — 6 с. Фармат 20х27 см. Наклад 1000 ас. Цана РМ 1,00. Месца захаваньня — БДАЛІМ.
Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**98. ТУРАНКОЎ А. Слуцкія ткачыхі. Раманс на словы М. Багдановіча для сапрана альбо тэнара.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943, май. — 6 с. Фармат 20х27 см. Наклад 1000 ас. Цана РМ 1,00.

Месца захаваньня — БДАЛІМ.
Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**99. ТУРАНКОЎ А. У садочку цьвітучым. Раманс на словы В. Дуніна–Марцінкевіча для мэццо–сопрано.** Рыга: выд. К. Езавітава, друкарня “Картаграфічны Інстытут П. Мантнекса”, 1943, май. — 6 с. Фармат 20x27 см. Наклад 1000 ас. Цана РМ 1,00. Месца захаваньня — Нацыянальная бібліятэка Латвіі ў Рызе.
Інф.: Раніца. 1943. 6 чэрвеня.

**100. ФАБІЯН АКІНЧЫЦ. Ягонае жыцьцё і думкі.** Менск, друкарня МВДТ, 1943. — 15 с. Фармат 15x21 см. Месца захаваньня — БДАЛІМ.

**101. ШЧАГЛОЎ МІКОЛА. Беларуская музычная культура.** Бэрлін: “Народная Бібліятэчка № 6”, 1944. — 31 с. Фармат 11x14 см. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

**102. ЭВАНГЕЛЬСКІ хрысьціянскі сьпеўнік,** прадмова А. Кецко. Менск: выд. ВШПЛМ, 1943. — 176 с. Фармат 10x14 см. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.
Інф.: Беларуская Газэта. 1943. 9 чэрвеня.

**103. ЮНАЦКІ сьпеўнік.** Менск, 1944. — 31 с. Фармат 13x20 см. Месца захаваньня — Бібліятэка Ф. Скарыны ў Лёндане.

**104. ЯК ПРАВІЛЬНА гаварыць і пісаць пабеларуску. Пастановы зборкаў чысьціні беларускае мовы.** Выданьне другое. Прага: Беларускае выдавецтва Яна Ермачэнкі, друкарня Pražské Akciové Tiskárny, “Беларускія карэспандэнцыйныя курсы ў Празе”. Сш. I. 1941. — 13 с. Фармат 15x23 см. Цана крон 5,00. Месца захаваньня — Славянская бібліятэка ў Празе.

**Прапагандысцкія брашуры *Vinety* без пазначанага месца і году выданьня.**

У дужках — месца захаваньня брашур.

**105. АДОЛЬФ Гітлер і дзеці.** — 46 с. Фармат 15x21,5 см (НББ).
**106. АДОЛЬФ Гітлер і працоўныя.** — 40 с. (НАРБ).
**107. АЛЬБРЭХТ К. У падвалах ГПУ.** — 52 с. Фармат 18x25,5 см (НББ).
**108. БАЛЬШАВІЦКАЯ нацыянальная палітыка.** — 16 с. (НАРБ).
**109. ДЗЕНЬ Марыны.** — 16 с. (НАРБ).
**110. КІМ ТЫ БЫЎ, кім стаўся, што станецца з табой?** — 34 с. (НАРБ).
**111. KNICKERBOCKEN H.R. Is tomorrow Hitlers?** (Выняткі з кнігі на беларускай мове). — 23 с. Фармат 14,5x20,5 см (НББ).
**112. МАЛЬЦАЎ. Канвэер ГПУ.** — 47 с. Фармат16x25 см (НББ).
**113. МОЛАДЗЬ Адольфа Гітлера.** — 32 с. (НАРБ).
**114. НЯМЕЧЧЫНА.** — 28 с. Фармат 20x29 см (НББ).
**115. ПРЫГОЖАЯ Нямеччына.** — 10 с. (НАРБ).
**116. СУПРАЦОЎНІЧАЙ з намі! Мы дапаможам табе!** — 32 с. Фармат 14x20,5 см (НББ).
**117. ЯК СТАЛІНАВА зграя прыгнятала народ.** — 16 с. Фармат 14x19,5 см (НББ).

## 3. Бібліяграфічная характарыстыка выданьняў (Статыстычны аспэкт)

*Тэматычная структура* кніг і брашур, выдадзеных у 1939—1944 г., падзяляецца на восем групаў выданьняў. Гэты падзел не прэтэндуе на поўную дакладнасьць. Па–першае, каля 20% усіх улічаных у каталёгу кніг вядомы аўтару толькі зь іх апісаньня ў прэсе і, па–другое, тэматычная клясыфікацыя некаторых выданьняў у пэўнай меры ўмоўная.

Так, напрыклад, кніга М. Сяднёва “Ахвяры бальшавізму” залічаная намі да твораў палітычнай публіцыстыкі, хоць пасьля азнаямленьня зь яе зьместам, магчыма, было б больш правільна аднесьці яе да катэгорыі мастацкай літаратуры. Таксама выклікаюць сумненьні кнігі Я. Станкевіча “Курс беларускае мовы” і “Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску”. Абедзьве кнігі залічаны да пэдагагічнай літаратуры, хоць з увагі на дыскусійнасьць моваэнаўчых канцэпцыяў іх аўтара, магчыма, было б больш правільна залічыць іх да групы навуковай літаратуры. Урэшце, апрацаваныя ксяндзом В. Шутовічам “Калядныя песьні” трактуюцца тут як зборнік калядак “Ой, прыйшла каляда”, як музычная, а не рэлігійная літаратура.

**Табліца 2.** Тэматычная структура выданьняў

| **Тэматычная група** | **Колькасьць тытулаў** |
|---|---|
| **Агулам** | 117 |
| **У тым ліку** | |
| Школьныя падручнікі і пэдагагічная літаратура | 31 |
| Музычная і рэпэртуарная літаратура | 21 |
| Мастацкая літаратура | 17 |
| Рэлігійная літаратура | 9 |
| Навуковая і навукова–папулярная літаратура | 8 |
| Беларуская палітычная публіцыстыка | 8 |
| Іншыя выданьні | 7 |
| Нямецкая прапагандысцкая літаратура | 16 |

Найбольшую групу выданьняў (31 тытул) складалі школьныя падручнікі і пэдагагічная літаратура. Стараньнем школьнага інспэктарату і ВШПЛМ выйшлі ў Менску: 13 праграмаў навучаньня для школаў і інструкцыя аб пераводзе вучняў з клясы ў клясу і 9 падручнікаў — П. Кісяля “Беларускі лемантар” (тры выданьні), А. Лёсіка “Беларускі правапіс” (два варыянты), Б. Тарашкевіча “Беларуская граматыка”, Я. Станкевіча “Кніжка вучыцца чытаць і пісаць лацініцаю” і два арытмэтычныя задачнікі З. Дабрынскай. Гэтыя падручнікі выкарыстоўваліся ў пачатковых школах генэральнай акругі Беларусі і замянілі выпушчаныя раней “Беларускі правапіс” Тарашкевіча і баранавіцкі лемантар “Зорка”.

Нягледзячы на немалыя наклады, выпуск падручнікаў у Менску не задавальняў патрэбаў пачатковых школаў генэральнай акругі Беларусі, і таму яны не пастаўляліся беларускім школам на іншых абшарах акупацыйнай адміністрацыі. Дарэчы, і попыт на іх быў там невялікі. Калі ў школах генэральнай акругі Беларусі загадам А. Розэнбэрга ўводзілася лацінка, то гэтая дырэктыва не датычыла Ўсходняй Латвіі і Беластоцкай акругі, у якіх настаўнікі мелі свабоду выбару і, як правіла, трымаліся кірыліцы. Па гэтай прычыне апрацоўваліся там свае падручнікі, аднак толькі ў Рызе выйшла кірылічная чытанка К. Езавітава “Беларуская школа”, якой у 1943/44 г. карысталіся школы ў Латвіі і часткова ў Беластоцкай акрузе.

Ува ўмовах адсутнасьці адзінай сыстэмы школьнага навучаньня безвыніковымі былі некаторыя выдавецкія ініцыятывы Я. Станкевіча. Ягоны “Лемантар пераходны з лацініцы на кірыліцу” і выдадзеная ў Празе “Арытмэтыка” З. Дабрынскай бадай увогуле не выкарыстоўваліся ў школах. Ня мелі практычнага значэньня і яго працы “Курс беларускай мовы” і “Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску”, якія, па сутнасьці, былі моваэнаўчай прапановай іх аўтара. Затое значную адукацыйную вартасьць меў “Падручнік нямецкага языка для Беларусаў”, прызначаны, галоўным чынам, для дарослых.

Асобнае месца ў тэматычнай структуры выданьняў займала даволі разнастайная музычная і рэпэртуарная літаратура (21 тытул), якая прызначалася для папулярызацыі беларускай песьні і мастацкага слова.

У Менску ВШПЛМ выпусьціла тры фальклёрныя зборнікі: “Ой, прыйшла каляда”, “Вясна–красна” і “Зборнік купальскіх і жніўных песьняў”, апрацаваныя беларускімі кампазытарамі М. Шчагловым, А. Туранковым ды іншымі, і перавыдала “Зборнік сцэнічных твораў для гурткоў мастацкай самадзейнасьці”. Важную ролю ў выхаваўчай працы моладзі адыграў СБМаўскі “Юнацкі сьпеўнік”.

У Рызе К. Езавітаў выдаў сэрыю музычных твораў: 10 паасобных рамансаў і народных песень і два іх зборнікі з нотамі беларускіх кампазытараў М. Зінчука, М. Мікалаевіча, Р. Самохіна, А. Спаскага, А. Туранкова. У Празе стараньнем В. Русака выйшлі “Беларускія (крывіцкія) песьні”, а ў Бэрліне Ніна Абрамчык выпусьціла “Калядныя песьні” кс. В. Шутовіча і два зборнікі песень і патрыятычнай паэзіі “Беларусь у песьнях” і “Пад гоман вясёлы”.

Да групы мастацкай літаратуры адносіцца 17 выданьняў. Прыкладна трэцюю іх частку складалі перадрукі раней выдадзеных твораў Я. Коласа “Сымон–музыка”, У. Жылкі “Тэстамэнт”, А. Музыкі “Прыгоды Панаса і Тараса”, а таксама цалкам або часткова “Дудар і іншыя апавяданьні”, “Выбраныя беларускія народныя казкі” і ілюстраваная песьня–казка “Камарочак”.

Аднак пераважную частку выданьняў мастацкай літаратуры складалі новыя, апрацаваныя падчас акупацыі, творы беларускіх празаікаў і паэтаў: сцэнічны гратэск Ф. Аляхновіча “Круці, не круці — трэба памярці”, зборнікі вершаў Н. Арсеньневай “Сягоньня”, Л. Геніюш “Ад родных ніў”, Т. Лебяды “Песьні выгнаньня”, А. Салаўя “Мае песьні” і слуцкіх паэтаў “Песьняры Случчыны”, апавяданьні М. Лесуна “На крыжы”, гістарычная паэма Л. Случаніна “Рагнеда” і мастацкія нарысы Ю. Віцьбіча “Нацыянальныя сьвятыні” і “Вяліскія паўстанцы. Гэньдзікаўскія змагары”.

Астатнім выданьнем мастацкай літаратуры былі апавяданьні Л. Радзіміча “Адам і Ева”, “Чабор”. Хутчэй за ўсё гэта былі новыя, напісаныя падчас вайны. Праўда, невядома, ці быў аўтар у той час у Нямеччыне.

Дамінуючай рысай творчасьці Н. Арсеньневай, Л. Геніюш, А. Салаўя і Л. Случаніна былі патрыятычныя матывы, а Т. Лебяды, М. Лесуна, Ю. Віцьбіча — асуджэньне антыбеларускіх дзеяньняў савецкай улады.

Групу рэлігійнай літаратуры прадстаўлялі 9 выданьняў: 5 каталіцкіх — тры малітаўнікі, катэхізмоўка Я. Рэшаця і “Патрэбнейшыя выняткі з Рытуалу”, 3 праваслаўныя — “Нармальны статут праваслаўных царкоўных брацтваў”, малітаўнік і патэрык, а таксама адзін баптысцкі “Эвангельскі хрысьціянскі сьпеўнік”.

Выпадае заўважыць, што ўсе тры праваслаўныя выданьні выйшлі не ў Беларусі, а ў Варшаве, што было прычынай крытыкі “Беларускай Газэты” (1943. 11 верасьня).

Чарговая тэматычная група — навуковая і навукова–папулярная літаратура — налічвае 8 тытулаў. Да яе адносіліся тры працы Я. Станкевіча: “Курс гісторыі Крывіі–Беларусі”, “Крыўя–Беларусь у мінуласьці” і (пры ўдзеле Антона Адамовіча) “Маленькі маскоўска–беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразэолёгічны”. Астатнюю частку гэтай групы складалі кнігі: Я. Найдзюка “Беларусь учора і сяньня”, М. і Н. Абрамчыкаў “Гісторыя Беларусі ў картах”, У. Глыбіннага “Смаленшчына — адвечная беларуская зямля”, М. Шчаглова “Беларуская музычная культура” і “25–лецьце Беларускай гімназіі ў Вільні”.

Пераважная частка навуковай і навукова–папулярнай літаратуры датычыла розных пытаньняў гісторыі Беларусі.

Таксама сьціпла прадстаўлялася беларуская палітычная публіцыстыка (8 тытулаў). Да гэтай групы адносіліся менскае і бэрлінскае выданьні В. Ластоўскага “Што трэба ведаць кажнаму беларусу”, брашуры У. Вераса “Як створым нашую сілу” і “Шляхом барацьбы Беларусі з Масквою”, М. Сяднёва “Ахвяры бальшавізму”, брашура “25 сакавіка”, “Фабіян Акінчыц. Ягонае жыцьцё і думкі” і кніга К. Езавітава “Беларуская Цэнт-

ральная Рада адзіны правамоцны прадстаўнік беларускага народу".

У катэгорыю іншых выданьняў увайшло 7 кніг: І. Ермачэнкі "Пранцы (сыфіліс)", Калыньша "Смалакурэньне", "Кароткая інструкцыя таварыства «Ўсход»", Г. Лёе "Нямецка–беларускі слоўнік", "Статут Беларускага аб'яднаньня ў Латвіі", "Страявы вайсковы статут" і "Сьпіс абанэнтаў Менскай аўтаматычнай тэлефоннай сеткі".

Апошнюю тэматычную групу складалі выпушчаныя нямецкімі ўстановамі і выдавецтвамі прапагандысцкія выданьні (16 тытулаў). Да іх ліку адносіліся кніга О. Лемана "Нямецкія салдаты", "Новая пара", "Слова для маладых людзей" і 13 брашур "Вінэты".

* * *

*Храналёгія выданьняў.* З агульнай колькасьці ўлічаных у каталёгу 117 выданьняў не пададзены час выпуску 13 нямецкіх прапагандысцкіх брашур. З гэтай прычыны храналягічны агляд выпуску кніг і брашур абмежаваны да 104 выданьняў (гл. табліцу 3). Выданьні 1941 г. разьдзелены на два пэрыяды: да і пасьля нашэсьця Нямеччыны на Савецкі Саюз.

У выніку палітычных умоў і абмежаванага попыту зь верасьня 1939 г. да канца чэр-

**Табліца 3.** Храналёгія выпуску кніг і брашур

| **Год выпуску** | | **Колькасьць тытулаў** |
|---|---|---|
| **Агулам** | | 117 |
| **У тым ліку** | | |
| **Пэрыяд нямецка–савецкага супрацоўніцтва** | | |
| 1939 | | 1 |
| 1940 | | 0 |
| 1941 | | 7* |
| **Пэрыяд савецка–нямецкай вайны** | | |
| 1941 | | 17 |
| 1942 | | 17 |
| 1943 | | 34 |
| 1944 | | 28 |
| Разам | | 104 |

* Апошняя частка кнігі Я. Станкевіча "Курс гісторыі Крывіі–Беларусі" (трэцяя лекцыя) была выпушчана ў верасьні 1941 г.

веня 1941 г. выйшла толькі 8 кніг: О. Лемана "Нямецкія салдаты", падручнік Бакача, дзьве брашуры Вераса і чатыры выданьні Праскіх курсаў беларусаведы.

Марудна наладжвалася кнігавыдавецкая справа і на акупаваных Нямеччынай усходніх тэрыторыях. Як паказана ў табліцы 3, у другой палове 1941 г. у Беларусі выйшла 17 тытулаў, аднак іх пераважную частку (13 тытулаў) складалі школьныя праграмы. Акрамя іх, ксёндз Глякоўскі выдаў тры кніжачкі, а Краёвае выдавецтва "Менск" — адну.

Не палепшылася становішча і ў 1942 г. За гэты час выйшла агулам 17 кніг. У Генэральнай акрузе Беларусь выпушчана 7 кніг (БНС — 3, Інспэктарат — 1, ВШПЛМ — 1, нямецкія выданьні — 2). Такая ж іх колькасьць выйшла ў Нямеччыне (тры — надрукаваныя ў Празе — кнігі З. Дабрынскай, Я. Коласа і Л. Генюш і чатыры ратагарныя выданьні Ніны Абрамчык). Новай зьявай было запачаткаваньне ў 1942 г. выпуску беларускіх кніг у Рызе і Варшаве.

Выданьне кніг ажывілася ў 1943 г., калі ўсімі выдаўцамі на акупаваных тэрыторыях і ў Нямеччыне былі выпушчаны 34 тытулы, у два разы больш, чым у папярэднім годзе. Пераважную іх частку складалі выданьні ВШПЛМ (14 тытулаў) і К. Езавітава ў Рызе (12 тытулаў). Іншымі выдаўцамі былі выпушчаны ў Менску 2 кнігі, у Слуцку — 1, Вільні — 1, Варшаве — 2, Бэрліне — 2 і Празе — 1.

У выніку адступленьня нямецкіх войск выдавецкая дзейнасьць у Менску спынілася пад канец чэрвеня 1944 г. За першае яго паўгодзьдзе ВШПЛМ выпусьціла 9 кніг (зь іх зборнік лірыкі Салаўя быў надрукаваны ў ліпені ў Рызе), СБМ — 1, рэдакцыя "Новага Шляху" — 1 кнігу. Вясной 1944 г. 2 кнігі выйшлі ў Вільні і 1 — у Рызе. Выдадзеная беластоцкім Беларускім аб'яднаньнем кніга М. Сяднёва "Ахвяры бальшавізму" была надрукавана ў ліпені ў Кёнігсбэргу. Невядома, дзе выйшла кніга Калыньша "Смалакурэньне". У Бэрліне кнігадрукаваньне працягвалася да канца 1944 г. Там выйшла 12 тытулаў, у тым ліку — 7 у сэрыі "Народная бібліятэчка". Агульны вынік 1944 г. (28 тытулаў) быў трохі меншы, чым у папярэднім годзе.

* * *

*Геаграфія выданьняў.* За ўвесь разгледжаны пэрыяд беларускія кнігі выдаваліся ў 9 гарадох, што дэталёва паказана ў табліцы 4. Найбольшая іх колькасьць (50 тытулаў) выйшла ў Менску, аднак пазыцыя гэтага гораду не была дамінуючай. Другім важным кнігавыдавецкім цэнтрам быў Бэрлін, дзе з улікам выданьняў "Вінэты" было выпушчана 36 тытулаў. У гэты лік уключаны кнігі Я. Коласа і Л. Генію́ш, якія толькі друкаваліся ў Празе, але былі выдадзены Беларускім камітэтам самапомачы ў Бэрліне.

**Табліца 4.** Месца выданьня кніг

| **Горад** | | **Выдадзеных тытулаў** |
|---|---|---|
| **Агулам** | | 117* |
| **У тым ліку** | | |
| Менск | | 50 |
| Бэрлін | | 36 |
| Рыга | | 15 |
| Прага | | 6 |
| Вільня | | 3 |
| Варшава | | 3 |
| Баранавічы | | 1 |
| Слуцак | | 1 |
| Беласток | | 1 |

* Не ўстаноўлена месца выданьня кнігі Калыньша "Смалакурэньне".

* * *

Пытаньне *алфавіту*, якое раней выклікала розныя меркаваньні і спрэчкі, у гады II сусьветнай вайны і акупацыі Беларусі вырашалася амаль адназначна на карысьць кірыліцы. У выніку загаду А. Розэнбэрга менскае ВШПЛМ выпусьціла лацінкай 7 падручнікаў і "Выбраныя беларускія народныя казкі". Акрамя таго, лацінкай выдавалася ксяндзамі С. Глякоўскім і А. Станкевічам каталіцкая літаратура (4 тытулы) і Нінай Абрамчык 5 ратататарных выданьняў у Бэрліне.

Агулам за разгляданы пэрыяд было надрукавана лацінскім алфавітам 16 тытулаў, г.зн. 14% усёй тагачаснай кніжнай прадукцыі, а кірыліцай — 98 тытулаў, або 84% усіх выданьняў, у тым ліку ўсе кнігі і брашуры, выпушчаныя нямецкімі выдаўцамі. Дзьве кнігі Я. Станкевіча і "25–лецьце Беларускае гімназіі ў Вільні" надрукаваныя двума алфавітамі.

* * *

*Аб'ём* выданьняў 1939—1944 г. прыведзены ў табліцы 5. Заслугоўвае ўвагі незвычайна высокі ўдзел тоненькіх кніг, ці, дакладней, брашур, аб'ём якіх не перавышаў 30 старо-

нак. На іх прыходзілася амаль палова (47%) усіх тагачасных выданьняў. Найбольш аб-'ёмістымі (звыш 200 старонак) былі толькі пяць кніг — Я. Коласа "Сымон–музыка" (212 с.) "Песьняры Случчыны" (233 с.), Калыньша "Смалакурэньне" (240 с.), Я. Найдзюка "Беларусь учора і сяньня" (304 с.) і П. Бакача "Падручнік нямецкага языка для Беларусаў" (357 с.)

**Табліца 5.** Аб'ём выданьняў

| **Колькасьць тытулаў** | **Колькасьць старонак** | **Удзельная вага (%)** |
|---|---|---|
| Агулам | 116* | 100 |
| 1—30 | 55 | 47 |
| 31—60 | 31 | 27 |
| 61—100 | 18 | 16 |
| 101—200 | 7 | 6 |
| Звыш 200 | 5 | 4 |

* Ня вызначаны аб'ём "Беларускага лемантара «Зорка»".

Неабходна заўважыць, што прыведзены падзел на групы аб'ёму ня ўлічвае фармату кніг. З увагі на тое, што выдаваліся яны розным фарматам, гэтае групаваньне можна лічыць прыблізным. Калі пералічыць усе выданьні на ўмоўны параўнальны фармат, магчыма, можна было б зрабіць пэўную карэктуру дадзеных у табліцы 5 — г.зн. павялічыць колькасьць тытулаў у групах найменшага аб'ёму і зьменшыць іх лік у групах найбольшага аб'ёму.

* * *

Значныя цяжкасьці былі з *распаўсюджваньнем* выдадзеных кніг. Гэтае пытаньне вырашалася, як правіла, самімі выдаўцамі, якія карысталіся арганізацыйнай сеткай беларускіх камітэтаў у Бэрліне, Варшаве і Латвіі. Адзінае ў Беларусі Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі пераважную частку сваіх выданьняў пастаўляла акруговым школьным інспэктаратам, якія іх распаўсюджвалі праз сетку школаў. Акрамя таго, кнігі прадаваліся ў нешматлікіх кнігарнях і газэтных кіёсках.

Паколькі ў генэральнай акрузе Беларусі пошта і экспэдыцыйныя арганізацыі функцыянавалі толькі тэарэтычна, ВШПЛМ часта рассылала кнігі на правінцыю разам з транспартам газэт і часопісаў. Аднак гэтая форма не гарантавала тэрміновую пастаўку, асабліва ў раёны, кантраляваныя партызанамі.

У такіх умовах летам 1943 г. ВШПЛМ адкрыла ў Вільні сваё прадстаўніцтва, якім кіраваў Станіслаў Мядоўскі. Яму даручалася прымаць замовы на надрукаваныя ў віленскіх друкарнях школьныя падручнікі і іншыя кнігі. Аднак магчымасьці прадстаўніцтва, відаць, не былі лепшыя, у сувязі з чым ВШПЛМ рэкамэндавала акруговым школьным інспэктаратам і кнігарням у Беларусі самім арганізаваць транспарт кніг зь Вільні[53]. Цяжка было кнігу выдаць, таксама няпроста было яе давесьці да чытача.

## 4. Кніга і палітыка

На думку многіх аўтараў, 20–я гады былі важным, аднак кароткатрывалым этапам беларускага адраджэньня. Ужо пад канец гэтага дзесяцігодзьдзя ў БССР пачаўся шматгадовы працэс змаганьня зь беларускім нацыяналізмам — вынішчэньне інтэлігенцыі, кастрацыя нацыянальных вартасьцяў зь літаратуры, школьніцтва, навукі і культуры,

[53] Беларуская Газэта. 1944. 19 студзеня.

разбурэньне помнікаў гісторыі, храмаў. Беларуская мова выцясьнялася з грамадзкага ўжытку, з партыйных органаў, адміністрацыйных і навуковых установаў. Пры гэтым істотную ролю адыграла рэформа беларускага правапісу (1933 г.), мэтай якой было максымальнае збліжэньне беларускай мовы з расейскай — мяняўся ня толькі правапіс, але і марфалёгія, сынтаксіс, уводзіліся чужыя для беларускай мовы лексычныя ўтварэньні.

Так рыхтаваўся грунт для шырокай русіфікацыі, што наглядна адлюстроўвалі паказчыкі кнігавыдавецкай дзейнасьці БССР. У 1931—1940 г. выпуск кніг на беларускай мове зьменшыўся з 1301 да 375, затое на расейскай узрос амаль у 10 разоў — з 38 да 362 тытулаў[54]. Выдаваная дзяржавай беларускамоўная савецкая кніга адлюстроўвала інтарэсы камуністычнай партыі, прывівала грамадзтву савецкі патрыятызм і варожасьць да нацыянальнай ідэі.

Паход супраць беларускага нацыяналізму ў савецкай Беларусі паўплываў на абвастрэньне нацыянальнай палітыкі ўрадаў Польшчы і Латвіі, у якіх у 30–я гады праводзілася жорсткая асыміляцыя беларускага насельніцтва. У выніку, напярэдадні другой сусьветнай вайны беларускае пытаньне было практычна незаўважным у Эўропе. Калі ў першую сусьветную вайну для нямецкіх палітыкаў і гісторыкаў Беларусь была “невядомай краінай”, то 20 гадоў пазьней Вільгельм Кубэ яе ацэньваў “ня больш, як імглістае геаграфічнае паняцьце”[55].

Кіруючыся прагматызмам, бэрлінскія ўлады не зьбіраліся выступаць у ролі акушэра беларускага нацыяналізму. Іх уражвала стаўленьне насельніцтва прыбалтыйскіх краін — Літвы, Латвіі і Эстоніі, якое пасьля аднагадовай савецкай акупацыі (1940—1941) здолела стварыць дастаткова дзейсныя нацыянальныя сілы самааховы, абараніцца перад пашырэньнем савецкай партызаншчыны і забясьпечыць, наколькі дазвалялі ваенныя ўмовы, нармальнае функцыянаваньне штодзённага жыцьця.

У Беларусі ж нямецкія ваенныя і цывільныя ўлады сустрэліся з пасіўнасьцю і нацыянальнай індыфэрэнтнасьцю большай часткі насельніцтва, як Заходняй, так і Ўсходняй Беларусі, з вострым недахопам кваліфікаваных беларускіх кадраў для арганізацыі “новага парадку”. У выніку створаная на пачатку акупацыі адміністрацыя і дапаможная паліцыя мелі пераважна небеларускі характар і лёгка паддаваліся ўплывам савецкага і польскага падпольля. Зь вясны 1942 г. актывізаваўся партызанскі рух і пацыфікацыйныя дзеяньні паліцыі, якія былі дамінуючым фактарам жыцьця пад акупацыяй.

Такое становішча будзіла ў кіруючых колах Нямеччыны глыбокія сумненьні ў паўнавартаснасьці беларускай нацыі і, пасьлядоўна, у рэальнасьці імкненьняў В. Кубэ да актывізацыі беларускай інтэлігенцыі і разьвіцьця нацыянальнай самасьвядомасьці насельніцтва. Гэта, у сваю чаргу, абумовіла недавер бэрлінскіх чыноўнікаў да беларускага нацыяналізму, у прыватнасьці, адукацыі, культуры і выдавецкай справы.

Яшчэ ў студзені 1943 г. на тэрыторыі цывільнага праўленьня генэральнай акругі Беларусі выпускаліся толькі тры беларускія газэты (“Баранавіцкая Газэта”, “Беларуская Газэта” і “Голас Вёскі”) і адзін часопіс “Новы Шлях”, што было прадметам крытыкі паліцэйскіх органаў за недастатковае прапагандысцкае ўзьдзеяньне на насельніцтва. Магчыма, гэтая крытыка паўплывала на дазвол міністэрства акупаваных усходніх абшараў выпусьціць у сакавіку чацьвертую — “Газэту Случчыны”. Так, у палове 1943 г., г.зн. пасьля двух гадоў акупацыі, у гэтай частцы Беларусі выдаваліся 4 газэты ў параўнаньні з 26 у Латвіі, 18 у Літве і 15 у Эстоніі[56].

Яшчэ большую розьніцу ўяўляў выпуск кніг, якія пераважна служылі нацыянальнай адукацыі насельніцтва, а не патрэбам нямецкай прапаганды. Калі за гады другой сусьветнай вайны на ўсіх падкантрольных Нямеччыне тэрыторыях было выпушчана

[54] Друк Беларускай ССР 1918—1980. Статыстычны зборнік. Мінск, 1983.

[55] Kube W. Weissruthenien: Ein Jahr Zivilverwaltung // Deutsche Zeitung im Ostland. 30.08.1942.

[56] Die Presse im Reichskommissariat Ostland // Die Ostkartei. Juni, 1943.

на беларускай мове 117 кніг і брашур, то ў Латвіі за тры гады нямецкай акупацыі выйшла на латыскай мове каля 1500 кніг і музычных твораў агульным накладам 5 млн. асобнікаў[57]. А калі ўлічыць кнігі, выдадзеныя толькі ў генэральнай акрузе Беларусі (52 тытулы), і колькасьць насельніцтва, якая ў Беларусі была ў некалькі разоў большай, чым у Латвіі, кнігавыдавецкія вынікі былі практычна непараўнальныя.

Такой мізэрнай прадукцыі кніг на беларускай мове ня могуць апраўдаць спасылкі на нямецкую палітыку — усё ж пераважная іх частка выдавалася на нямецкія сродкі. Ня могуць апраўдаць і ваенныя варункі, у прыватнасьці, жудасьці партызанскай вайны, калі многім беларусам было не да кнігі — ня ўсюды і не заўсёды яны парушалі ход жыцьця.

Важнейшай прычынай гэтага была малалікасьць беларускай інтэлігенцыі, яе непадрыхтаванасьць і незацікаўленасьць апрацоўкай і выдаваньнем кніг. Калі ў прыбалтыйскіх краінах былі арганізаваныя і пасьпяхова працавалі мясцовыя выдавецкія суполкі, то ў Беларусі дзейнічала толькі адно, падараванае генэральным камісарыятам, Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі. Пачын І. Ермачэнкі, які заснаваў у Празе сваё беларускае выдавецтва, а таксама стварэньне К. Езавітавым выдавецкага фонду ў Латвіі, ня мелі пасьлядоўнікаў у Беларусі.

Акрамя перакладчыкаў у “Вінэце”, у выпуску беларускіх кніг удзельнічала прыблізна 70 аўтараў, рэдактараў, графікаў і кампазытараў. У выключна неспрыяльных ваенных умовах усе яны працавалі на карысьць беларускай асьветы, культуры, нацыянальнай самасьвядомасьці, за што былі патрактаваныя савецкімі ўладамі як “зьлейшыя ворагі беларускага народу”.

Зноў насоўваецца параўнаньне з Прыбалтыкай: прафэсар Тадас Іванаўскас, які ў гады нямецкай акупацыі працаваў у Віленскім унівэрсытэце, пасьля вайны быў узнагароджаны ўладамі савецкай Літвы мэдалём заслугі за тое, што ў цяжкі ваенны час клапаціўся пра адукацыю літоўскай моладзі[58]. А ў Беларусі гарэлі сельскія школкі, а іх настаўнікі нярэдка гінулі ад партызанскіх куль.

Якая была прычына такога стаўленьня савецкіх уладаў да стваральнікаў і папулярызатараў беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў? На гэта ўжо ў 1918 г. адказаў сакратар Паўночна–заходняга камітэту РКП(б) Вільгельм Кнорын: “Мы считаем, что белорусы не являются нацией, и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты”[59].

Кнорын сумленна адлюстраваў погляд бальшавікоў на беларускае пытаньне, які, дарэчы, ня розьніўся ад стаўленьня расейскіх манархістаў. Усё ж няпроста было ігнараваць кароткатрывалае існаваньне БНР, што разумеў Сталін, па катэгарычным патрабаваньні якога была створана БССР. Створана, між іншым, для таго, каб рукамі саміх беларусаў ажыцьцяўляць запавет Кнорына. Усе, хто наважваўся супрацьстаяць гэтаму запавету, лічыўся ворагам камуністычнай партыі і савецкай улады і быў асуджаны на зьнішчэньне.

Таму не выпадкова большасьць удзельнікаў кнігавыдавецкага руху ваеннай пары была вымушана ратавацца ад бальшавіцкага “вызваленьня”. Летам 1944 г., разам з адступаючымі нямецкімі войскамі, выехалі зь Беларусі і Латвіі: Н. Арсеньнева, М. Байкоў, Ю. Віцьбіч, Я. Гладкі, У. Глыбінны, А. Грыцук, К. Езавітаў, Я. Золак, Х. Ільляшэвіч, А. Калубовіч, А. Кецка, Я. Кіпель, У. Клішэвіч, Т. Лебяда, М. Лясун (Целеш), Я. Найдзюк, М. Панькоў, М. Равенскі, А. Салавей, Л. Случанін, Я. Станкевіч, М. Сяднёў і М. Шчаглоў. Разам 23 інтэлектуалы, якія маглі аддаць свой талент і сілы беларускай культуры на Бацькаўшчыне, а не ля чужых берагоў.

---

[57] Latviju Enciklopedija. T. 1. Stokholma, 1950—1951. S. 711—712.

[58] Ivanauskas Tadas. Gyvernimas ir veikla. Vilnius, 1976. P. 203.

[59] Звезда. 1918. 6 октября.

Далей ад “вызваліцеляў” перамясьціліся І. Ермачэнка, А. Адамовіч, В. Камароўскі, Я. Пятроўскі і В. Тумаш, якія пастаянна або часова жылі ў Нямеччыне і Чэхіі. Не дасягнуў СМЕРШ Міколу і Ніну Абрамчыкаў, якія жылі ў Францыі. Аднак многім выпаў незайздросны лёс.

Пасьля капітуляцыі нямецкіх войск савецкія акупацыйныя органы арыштавалі ў Нямеччыне і Чэхіі: М. Байкова, П. Бакача, Б. Барткевіча, Л. Геніюш, К. Езавітава, А. Калошу, Т. Лебяду, В. Русака і Л. Случаніна, а А. Кецка, які прапаведаваў слова Божае, быў далёкі ад палітыкі і ў красавіку 1945 г. добраахвотна вярнуўся ў Менск, быў там арыштаваны ў лістападзе 1945 г. Арыштоўваліся і тыя, якія засталіся ў Беларусі і Літве — С. Мядоўскі, А. Станкевіч, А. Туранкоў, В. Шутовіч, магчыма, і іншыя, пра якіх маўчаць беларускія энцыкляпэдычныя даведнікі.

10 чалавек загінула падчас вайны: Ф. Акінчыц, В. Гадлеўскі, С. Глякоўскі, У. Казлоўскі і П. Кісель — у Менску, Ф. Аляхновіч — у Вільні, Гайкоўскі — у Варшаве, В. Мікула — у Нямеччыне і, верагодна, Міхась Ганько. Адзін толькі ксёндз І. Бобіч памёр натуральнай сьмерцю ў 1944 г. у Іўі.

Ішлі гады, у СССР мяняліся палітычныя варункі, многія ўчынкі савецкага “правасудзьдзя” былі перагледжаныя і некалі вінаватыя прызнаныя невінаватымі. Пасьля сьмерці Сталіна былі вызвалены зь лягероў: Л. Геніюш, А. Кецка, Т. Лебяда, С. Мядоўскі, Л. Случанін, А. Туранкоў, В. Шутовіч і П. Бакач. К. Езавітаў памёр у менскай турме, а Адам Станкевіч у тайшэцкім лягеры. Лёс астатніх невядомы.

Савецкія ўлады не лічылі магчымым прасіць прабачэньня, а тым больш пакаяцца за сьмерць і цярпеньні бязьвінных людзей — яны проста сьцьвярджалі факт невінаватасьці (гл., для прыкладу дакумэнт па справе А. Кецкі). На гэта былі важныя прычыны. Пасьля вайны ў Беларусі пасьлядоўна працягваўся русіфікацыйны курс, з абсягам і тэмпамі якога не магла раўняцца ніводная савецкая рэспубліка. Гэтай стратэгічнай мэце ўжо зь першых пасьляваенных гадоў служыла дэмаграфічная, кадравая і эканамічная палітыка, а з часам і паступовае выцясьненьне беларускай мовы з школьніцтва і навуковых установ. Усе гэтыя інструмэнты дзейнічалі нібыта самачынна, без стасаваньня фармальнага прымусу, што давала падставу для выказваньняў пра цалкам натуральны, добраахвотны працэс русіфікацыі.

У 60–я гады зьявіліся распрацоўкі, аўтары якіх тэарэтычна абгрунтоўвалі неабходнасьць русіфікацыі беларускага народу. Яна называлася прагрэсіўным, аб’ектыўным вынікам эканамічнай інтэграцыі, інтэрнацыяналізацыі ўсіх сфэраў жыцьця народаў СССР, важным фактарам стварэньня адзінага савецкага народу. Гэтая тэорыя была ўхвалена XXIV зьездам КПСС (красавік 1971 г.) і сталася дырэктывай практычнай дзейнасьці партыі. Ды беларускім дзяячом і гэтага было замала — яны сталі выказваць погляды, што беларуская мова ўжо ня ёсьць адзінай роднай мовай беларусаў, што другой такой мовай стала расейская.

У выніку дэнацыяналізацыйнай палітыкі партыі з году ў год зьмяншаўся попыт на беларускую кнігу, якую прапаноўвалі выдавецтвы БССР. Гэта, у сваю чаргу, уплывала на абмежаваньне іх выпуску. У 1950—1985 г. агульны наклад кніг і брашур, выпушчаных у БССР, узрос з 12,5 млн. да 53,3 млн., у тым ліку беларускамоўных выданьняў зьменшыўся напалову — з 10,7 млн. да 5 млн. асобнікаў. Адначасова іх удзел у агульнай выдавецкай прадукцыі зьменшыўся з 85% да 9%. У 1985 г., напрыканцы існаваньня СССР, на аднаго жыхара Беларусі прыходзілася ў сярэднім 0,5 беларускамоўнай кнігі, г.зн. у 10 разоў менш, чым у суседняй Літве (5,2 кнігі на літоўскай мове)[60].

Гэтыя паказчыкі былі самыя нізкія ў СССР і сьведчылі пра пасьпяховую рэалізацыю запавету Кнорына. Беларускі народ стаў адмаўляцца ад кніг на роднай мове, і

[60] Народное хозяйство СССР. Статистический ежегодник. Москва, 1966. С. 734; 1986. С. 536.

ўлады БССР ня мелі падставы прасіць прабачэньня ў тых, хто імкнуўся адвярнуць гэты працэс. Вырашала палітыка, ня права.

## 5. Біяграмы ўдзельнікаў кнігадрукаваньня

**Абрамчык Мікола** (1903—1970), беларускі грамадзкі і палітычны дзяяч, інжынэр. Нарадзіўся ў в. Сычавічы, што пад Радашкавічамі (сёньняшні Маладэчанскі раён Менскай вобласьці). У 1923 г. выехаў у Чэхаславаччыну, вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі; дзяяч Аб'яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацыяў. З 1930 г. — у Францыі, заснавальнік і кіраўнік Аб'яднаньня беларускіх рабочых "Хаўрус", выдавец яго пэрыядычных выданьняў "Бюлетэнь" і "Рэха". У 1941—1943 г. дзяяч Беларускага камітэту самапомачы (БКС) у Бэрліне, арганізатар і лектар курсаў беларусаведы, выдавец кніг Я. Коласа "Сымон–музыка" і Л. Геніюш "Ад родных ніў". Напрыканцы 1943 г. вярнуўся ў Парыж, зь сьнежня 1947 г. — прэзыдэнт Рады БНР.

**Абрамчык** (дзяв. **Ляўковіч**) **Ніна** (літ. псэўданім Ніна Раса). Нар. 20.03.1916 у в. Шані на Пружаншчыне. Закончыла Віленскую беларускую гімназію, вучылася ў Віленскім унівэрсытэце, сябра Беларускага студэнцкага саюзу. З восені 1939 г. настаўнічала на Пружаншчыне. На пачатку 40–х г. пабралася шлюбам зь Міколам Абрамчыкам, жыла ў Бэрліне, працавала ў "Раніцы" і БКС, у 1942—1943 г. апрацавала і выдала "Гісторыю Беларусі ў картах" і некалькі зборнікаў вершаў і песьняў. Жыве ў Вілепэне (*Villepint*) пад Парыжам.

**Адамовіч Антон** (1909—1998), літаратуразнаўца, гісторык, публіцыст, доктар філялёгіі. Нарадзіўся ў Менску. У 1930 г. арыштаваны, пасьля васьмігадовай высылкі ў 1938 г. вярнуўся ў Менск, скончыў БДУ, працаваў настаўнікам. У час нямецкай акупацыі арганізатар выдавецкай дзейнасьці, галоўны рэдактар выдавецтва "Менск". Напрыканцы 1943 г. выехаў у Нямеччыну, працаваў у "Раніцы". Пасьля вайны ў Нямеччыне, а потым ЗША разьвіваў актыўную навуковую, публіцыстычную і выдавецкую дзейнасьць.

**Аляхновіч Францішак** (1883—1944), беларускі тэатральны дзяяч, драматург, напісаў каля 20 п'ес. Нарадзіўся ў Вільні. У 1926 г. выехаў у Менск, неўзабаве быў арыштаваны і высланы на Салавецкія выспы. У 1933 г. вярнуўся ў Вільню. Аўтар кніг "Праўда пра Саветы" і "Ў капцюрох ГПУ". З сакавіка 1942 г. рэдактар штотыднёвіка "Biełaruski Hołas" у Вільні. Забіты на сваёй кватэры невядомымі тэрарыстамі.

**Арсеньнева Натальля** (1903—1997), беларуская паэтка. Нарадзілася ў Баку, з маленства жыла ў Вільні, вучылася ў беларускай гімназіі і ўнівэрсытэце, жонка вайсковага дзяяча Францішка Кушаля. Вясной 1940 г. зь дзецьмі выслана ў Казахстан, у 1941 г. вярнулася ў Беларусь. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў рэдакцыі "Беларускай Газэты", выдала зборнік вершаў "Сягоньня", напісала лібрэта да опэраў М. Шчаглова "Лясное возера", "Усяслаў Чарадзей" і апэрэт "З выраю". Пераклала на беларускую мову некалькі п'ес, якія ставіліся ў менскім гарадзкім тэатры, сярод іх "Затонуты звон" Г. Гаўптмана, "Вясельле Фігаро" і "Чарадзейная жалейка" В.А. Моцарта, "Кармэн" Ж. Бізэ і "Цыганскі барон" Ё. Штраўса. Супрацоўнічала з А. Кецкам у падрыхтоўцы зборніка "Эвангельскі хрысьціянскі сьпеўнік". Зь лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Займалася літаратурнай творчасьцю.

**Байкоў Мікола** (1889—?), літаратуразнаўца, лінгвіст, пэдагог. Нарадзіўся ў 1889 г. у г. Бежацак Цьвярской вобл. З 1913 г. выкладаў у навучальных установах у Беларусі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Інспэктараце беларускіх школаў і ў Выдавецтве школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску. Летам 1944 г. выехаў у Ня-

меччыну, працаваў у рэдакцыі часопіса “Малады змагар”. У 1945 г. арыштаваны савецкімі акупацыйнымі органамі, утрымліваўся ў менскай турме.

**Бакач Пётар**, грамадзка–культурны дзяяч. Нарадзіўся каля 1910 г., вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, дзяяч нелегальнага “Змаганьня” ў Вільні. У лістападзе 1932 г. асуджаны на чатыры гады зьняволеньня. Пасьля вызваленьня выехаў у Прагу, скончыў Карлаў унівэрсытэт, браў удзел у працы беларускай эміграцыі ў Чэхіі. Аўтар “Падручніка нямецкага языка для Беларусаў”, артыкулаў у часопісах “Іскры Скарыны” (Прага) і “Рэха” (Парыж), дасьледчык гісторыі беларускай літаратуры. Напрыканцы 1943 г. узначаліў бэрлінскую філію БКС, працаваў у беларускім аддзеле міністэрства прапаганды. 20 студзеня 1945 г. быў уведзены ў склад БЦР. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны арыштаваны савецкімі органамі ў Бэрліне, высланы ў Магаданскі лягер, зь якога пасьля сьмерці Сталіна быў вызвалены. У Беларусь не вярнуўся.

**Барткевіч Баляслаў.** Нарадзіўся ў 1909 г. у Чалябінскай губ., удзельнік нямецка–польскай вайны (1939), трапіў у палон. Пасьля вызваленьня зь лягеру для ваеннапалонных з кастрычніка 1940 г. кіраваў філіяй Беларускага прадстаўніцтва ў г. Торунь, а з 1943 г. — сакратар цэнтральнай управы БКС у Бэрліне. Ілюстраваў кнігі, выдаваныя Нінай Абрамчык. У 1945 г. арыштаваны савецкімі органамі, далейшы лёс невядомы.

**Бобіч Ільдэфонс** (1890—1944), каталіцкі сьвятар, празаік, публіцыст. Нарадзіўся ў в. Дзедзіна Дзісенскага павету. Падчас нямецкай акупацыі падрыхтаваў да друку беларускамоўныя зборнікі казаньняў “Роднае слова ў касьцёле” і “Навучайце ўсе народы”, а таксама працу, прысьвечаную філязофіі малітвы, — усё засталося ў рукапісе. Памёр у красавіку 1944 г. у Іўі Лідзкай акругі.

**Віцьбіч** (сапр. **Шчарбакоў Сэрафім**) **Юрка** (1906—1975), беларускі пісьменьнік, грамадзка–культурны дзяяч. Нарадзіўся ў г. Вяліж Віцебскай губ. Падчас нямецкай акупацыі ўдзельнік літаратурнага руху, друкаваўся ў “Беларускай Газэце”, “Раніцы” і інш. У 1944 г. выйшлі ў Бэрліне яго кнігі “Нацыянальныя Сьвятыні” і “Вяліскія паўстанцы. Гэньдзікаўскія змагары”. Пасьля вайны на эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**Гадлеўскі Вінцэнт** (1888—1942), каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзяяч, публіцыст. Нарадзіўся ў в. Шурычы Ваўкавыскага павету. У чэрвені 1940 г. выехаў зь Вільні ў Варшаву, працаваў у Беларускім камітэце, у кастрычніку 1941 г. прызначаны галоўным школьным інспэктарам у Менску, кіраваў працай па падрыхтоўцы праграмаў навучаньня для беларускіх пачатковых школаў, адначасова сябра Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы (БНС). 24 сьнежня 1942 г. арыштаваны нямецкай паліцыяй у Менску, неўзабаве закатаваны ў Трасьцянцы (пад Менскам)[61].

**Геніюш** (дзяв. **Міклашэвіч**) **Ларыса** (1910—1983), беларуская паэтка. Нарадзілася ў Жлобаўцах Ваўкавыскага пав. Скончыла Ваўкавыскую гімназію, пабралася шлюбам зь лекарам Іванам Геніюшам. У 1937 г. выехала ў Прагу, брала ўдзел у працы беларускай эміграцыі ў Чэхіі. Падчас вайны друкавалася ў “Раніцы”. У 1942 г. выйшаў зборнік яе вершаў “Ад родных ніў”. У 1948 г. у Празе арыштавана савецкімі органамі, саслана ў лягер. Пасьля вызваленьня ў 1956 г. жыла ў Зэльве.

**Гладкі Язэп** (1890—1972), пэдагог, дасьледчык, выдавец. Нарадзіўся ў в. Міхалкавічы на Лагойшчыне. У 1921—1930 г. працаваў настаўнікам, у 1935 г. закончыў Менскі пэдынстытут, пазьней навуковы работнік Інстытуту школьнай пэдагогікі ў Менску. У 1941/42 настаўнічаў у роднай вёсцы, але пад ціскам партызанаў на пачатку 1943 г. пакінуў працу і пераехаў у Менск, уладкаваўся ў ВШПЛМ у Менску. Зь лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Аўтар кніг “Краёвы слоўнік Лагойшчыны”, “Прыказкі Лагойшчыны”, школьных падручнікаў і іншых.

**Глыбінны** (сапр. **Сядура**) **Уладзімер** (1910—1995), дасьледчык, публіцыст. Нарад-

[61] Кс. Вінцэнт Гадлеўскі ў дзень арышту — 24 сьнежня 1942 г. — забіты ўва ўрочышчы Благаўшчына непадалёк ад Трасьцянца. — *А.С.*

зіўся ў Менску, вучыўся ў БДУ, у 1933 г. быў арыштаваны, тры гады знаходзіўся ў высылцы. У 1939 г. скончыў Ленінградзкі ўнівэрсытэт, у маі 1941 г. атрымаў ступень доктара філялягічных навук. У гады нямецкай акупацыі рэдактар часопіса "Новы Шлях", апрацаваў кнігі "Беларускі тэатар", "Беларускае мастацтва" і зборнік публіцыстыкі "Жыве Беларусь", якія не пабачылі сьвету. Зь лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у ЗША. Выдаў шэраг працаў па гісторыі беларускай і расейскай культуры.

**Глякоўскі Станіслаў** (1896—1941), каталіцкі сьвятар, рэлігійна–грамадзкі дзяяч, выдавец. Нарадзіўся ў в. Поразава[62] Ваўкавыскага пав. У ліпені 1941 г. выехаў зь Вільні ў Менск, рамантаваў касьцёлы, арганізаваў беларускае каталіцкае душпастырства і пачаў выдаваць беларускамоўную каталіцкую літаратуру. Загінуў у выніку міжканфэсійнага канфлікту[63].

**Грыцук Аляксей** (1910—1976), настаўнік, беларускі грамадзкі дзяяч. Нарадзіўся ў в. Міхноўка Бельскага пав. Гарадзенскай губ. Скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую сэмінарыю, у 1938 г. гістарычны факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецка–савецкай вайны (1939) трапіў у палон, адкуль уцёк на радзіму. Падчас нямецкай акупацыі сябра Беларускага камітэту ў Беластоку, у чэрвені 1942 г. прызначаны інспэктарам беларускіх школаў Беластоцкай акругі, апрацоўваў школьныя падручнікі. Зь лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, Аўстрыі, з 1948 г. у Канадзе.

**Дабрынская** (дзяв. **Корсак**) **Зоф'я** (1904—1992), настаўніца. Паходзіла з Дрысенскага пав. Віцебскай губ. З 1918 г. жыла ў Вільні, скончыла гімназію і настаўніцкую сэмінарыю, працавала ў школах Віленшчыны. У 1933 г. выйшла замуж і пераехала ў Варшаву. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў беларускай пачатковай школе ў Варшаве, апрацоўвала школьныя падручнікі, брала ўдзел у заснаванай Янкам Станкевічам Партыі беларускіх нацыяналістаў. Пасьля вайны настаўнічала ў Ольштыне, а з 1950 г. — у Варшаве.

**Езавітаў Канстанцін** (1893—1946), грамадзкі і палітычны дзяяч, вайсковец. Нарадзіўся ў г. Дзьвінску. У 1918—1920 г. — дзяяч БНР. З 1921 г. жыў у Рызе, кіраваў грамадзка–культурнай дзейнасьцю беларусаў Латвіі. Падчас нямецкай акупацыі заснаваў уласнае выдавецтва ў Рызе, якое выпусьціла сэрыю музычных твораў і іншыя беларускія кнігі. Улетку 1944 г. эвакуаваўся ў Бэрлін, удзельнічаў у структурах БЦР. У 1945 г. арыштаваны савецкімі органамі, памёр у турэмным шпіталі Менску.

**Ермачэнка Іван** (1894—1970), беларускі грамадзкі і палітычны дзяяч, лекар. Нарадзіўся ў в. Капачоўка Барысаўскага пав. З 1922 г. жыў у Празе, скончыў мэдыцынскі факультэт Карлавага ўнівэрсытэту (1929), браў удзел у беларускім студэнцкім руху (АБСА) і ў працы беларускай эміграцыі ў Чэхіі. У 1940 г. заснаваў беларускае выдавецтва ў Празе, якое дзейнічала ў ягоным доме. Прыхільнік беларуска–нямецкага супрацоўніцтва. У верасьні 1941 г. прызначаны кіраўніком БНС, у сваіх пачынаньнях карыстаўся даверам і падтрымкай генэральнага камісара Вільгельма Кубэ, аднак на фоне палітычных канфліктаў сярод акупацыйнай адміністрацыі ў красавіку 1943 г. быў вымушаны пакінуць Менск і вярнуцца ў Прагу. Пасьля вайны жыў у ЗША.

**Ільляшэвіч Хведар** (1910—1948), беларускі паэт, празаік, гісторык, грамадзкі дзяяч. Нарадзіўся ў Вільні. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і гістарычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецкай акупацыі дзяяч Беларускага камітэту, а зь вясны 1943 г. старшыня Беларускага аб'яднаньня ў Беластоку, рэдактар штотыднёвіка "Новая Дарога". У ліпені 1944 г. выехаў у Бэрлін, працаваў у рэдакцыі "Раніцы", выдаў сэрыю кніг у рамках "Народнай бібліятэчкі". Трагічна загінуў у аўтакатастрофе ў лягеры для перасяленцаў у Ватэнштэце.

**Калубовіч Аўген** (1912—1987), гісторык, літаратуразнаўца, палітычны дзяяч. Ура-

[62] Поразава мела статус мястэчка; цяпер пасёлак гарадзкога тыпу. — *А.С.*

[63] Больш дакладна: у выніку даносу на яго праваслаўных актывістаў. — *А.С.*

джэнец в. Ціхінічы Рагачоўскага пав. У 1930 г. арыштаваны, пасьля высылкі ў 1933 г. вярнуўся ў Беларусь, скончыў Менскі пэдагагічны інстытут, працаваў у наркамасьвеце БССР. У 1941—1944 г. — у Менску, працаваў у ВШПЛМ, сябра Рады даверу, БЦР, старшыня Беларускага культурнага згуртаваньня. Зь лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у ЗША.

**Кецка Антон** (1907—1978), прэсьвітэр царквы эвангельскіх хрысьціян–баптыстаў. Нарадзіўся ў в. Замагільле (сёньняшні Салігорскі раён). У 1928 г. прыняў воднае хрышчэньне ў Старобінскай абшчыне ЭХБ. У 1942 г. выбраны прэсьвітэрам ЭХБ г. Менску, апрацаваў беларускамоўны "Эвангельскі хрысьціянскі сьпеўнік", пісаў у "Беларускай Газэце" аб становішчы царквы ЭХБ у Беларусі. У чэрвені 1944 г. вывезены зь сям'ёй у Нямеччыну, адкуль у красавіку 1945 г. вярнуўся ў Менск. У лістападзе 1945 г. арыштаваны, асуджаны на 10 гадоў зьняволеньня. На пачатку 1953 г. вызвалены, вярнуўся ў Менск, працаваў будаўніком, з 1967 г. старшы прэсьвітэр ЭХБ на Менскую вобл., пад ягоным кіраўніцтвам пабудаваны новы малітоўны дом Менскай абшчыны.

**Кіпель Яўхім** (1895—1969), біёляг, пэдагог, грамадзка–палітычны дзяяч. Нарадзіўся ў в. Байлюкі Бабруйскага пав. Скончыў БДУ (1926), працаваў у сярэдніх школах, у Інбелкульце. У 1930 г. арыштаваны ў Менску, высланы, у 1935 г. зноў арыштаваны ў Арле. З чэрвеня 1942 г. у Менску, працаваў у школьным інспэктараце і рэдактарам газэт "Голас Вёскі", у 1944 г. — кіраўнік навуковага аддзелу БЦР, старшыня II усебеларускага кангрэсу. Зь лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**Клішэвіч Уладзімер** (1914—1978), беларускі паэт. Нарадзіўся ў в. Краснадворцы Слуцкага пав. У 1933 г. паступіў у Менскі пэдынстытут, у 1936 г. арыштаваны, высланы на Калыму. У 1940 г. прывезены ў Менск на перагляд справы, дзе яго і засьпела вайна. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у рэдакцыі "Газэты Случчыны", уклаў і выдаў зборнік "Песьняры Случчыны". Зь ліпеня 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у ЗША. Двойчы прыяжджаў у СССР.

**Лебяда Тодар** (сапр. **Шырокаў Пётар**) (1914—1970), драматург, паэт, празаік, публіцыст. Нарадзіўся ў Віцебску. У 1933 г. паступіў у Менскі пэдынстытут, у 1936 г. арыштаваны, сасланы ў Новасібірскую вобл., у 1940 г. прывезены ў Менск для перагляду справы. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Віцебску, рэдагаваў газэту "Беларускае Слова", выдаў зборнічак вершаў "Песьні выгнаньня", напісаў п'есу "Загубленае жыцьцё", якая ў 1944 г. ставілася ў менскім гарадзкім тэатры. У чэрвені 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе ў 1945 г. быў арыштаваны савецкімі акупацыйнымі органамі, рэпрэсаваны. Памёр у Разанскай вобл.

**Лёсік Антон** (1872—1949), настаўнік, мовазнаўца, удзельнік беларускага нацыянальнага руху. Нарадзіўся ў в. Мікалаеўшчына Менскага пав., брат Язэпа Лёсіка. Скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, з 1897 па 1900 г. вучыўся ў настаўніцкім інстытуце ў Глухаве, працаваў настаўнікам у школах Койданаўшчыны, у Ноўгарад–Северску. З 1923 г. быў навуковым супрацоўнікам Інбелкульту, разам з братам Язэпам вывучаў пытаньні беларускага правапісу, выкладаў беларускую мову ў Менскім пэдагагічным тэхнікуме. З–за рэпрэсіяў супраць брата Язэпа звольнены з тэхнікуму з забаронай займацца выкладніцкай дзейнасьцю; да нямецкай акупацыі зарабляў на жыцьцё прыватнымі ўрокамі. Падчас акупацыі працаваў у ВШПЛМ у якасьці рэцэнзэнта кніг, апрацаваў і выдаў "Беларускі правапіс". Памёр у Мікалаеўшчыне.

**Лясун М.** (сапр. **Целеш Мікола**), беларускі пісьменьнік. Нарадзіўся ў 1900 г. у в. Зазер'е Барысаўскага пав., скончыў гімназію і пэдагагічныя курсы, у 1919—1922 г. у Чырвонай Арміі, пасьля дэмабілізацыі прыехаў у Менск, працаваў у дзяржаўных установах, друкаваўся. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у "Беларускай Газэце". Апрацаваў зборнік апавяданьняў "На крыжы". З чэрвеня 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у ЗША. Дата сьмерці дакладна не вядомая (1976?).

**Мікула Віталь** (1913—1945?), вайсковец. Нарадзіўся ў в. Нялетава Нясьвіскага раёну[64]. Лейтэнант польскага войска. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам у Нясьвіжы, у структурах БНС і БЦР па арганізацыі самааховы і Беларускай краёвай абароны, пераклаў на беларускую мову "Страявы вайсковы статут". Пасьля эвакуацыі ў Нямеччыну служыў у дывізіі Зіглінга, аднак у выніку дэзэртэрстваў салдатаў быў арыштаваны і ўвязьнены ў канцлягер Дахаў, дзе, праўдападобна, загінуў.

**Мядоўскі Станіслаў.** Скончыў Віленскую беларускую гімназію, вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце, сябра Беларускага студэнцкага саюзу і рэдкалегіі "Шляху беларускага студэнта" (1938). У 1943—1944 г. прадстаўнік менскага ВШПЛМ у Вільні. Пасьля вайны арыштаваны і рэпрэсаваны. У 1956 г. вярнуўся ў Вільню, дзе неўзабаве і памёр.

**Найдзюк Язэп** (1909—1984), дзяяч беларускага нацыянальнага руху, друкар, публіцыст, выдавец. Нарадзіўся ў в. Бойдаты Ваўкавыскага пав. Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Ваўкавыску і ў Віленскай гімназіі. У 1926—1941 г. — кіраўнік друкарні імя Ф. Скарыны ў Вільні, выдавец і рэдактар часопіса "Шлях Моладзі". Падчас нямецкай акупацыі — супрацоўнік школьнага інспэктарату і тэхнічны кіраўнік ВШПЛМ, супрацоўнік менскіх газэт, аўтар папулярнай кнігі "Беларусь учора і сяньня". Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, аднак пасьля вайны пасяліўся ў г. Інаўроцлаў (Польшча), дзе пад прозьвішчам Александровіч працаваў да пэнсіі ў мясцовай друкарні.

**Радзіміч Лявон** (сапр. **Рублёў Цімох**) (1910—?). Нарадзіўся ў в. Будзіна (сёньняшні Дрыбінскі раён Магілёўскай вобл.), беларускі пісьменьнік, пэдагог, перакладчык. Скончыў Менскі вышэйшы пэдагагічны інстытут (1928), у 30–х г. працаваў у "Савецкай Беларусі", на радыё, у Інстытуце школьнай пэдагогікі, настаўнічаў. Пераклаў на беларускую мову "Першыя людзі на Месяцы" Г. Ўэлса і "Дон Кіхота" М. Сэрвантэса. За часамі нямецкай акупацыі настаўнічаў на Нясьвішчыне, друкаваўся ў "Беларускай Газэце". Паводле адных дадзеных, улетку 1944 г. выехаў у Польшчу, дзе жыў пад прозьвішчам Лукашэвіч, паводле другіх — загінуў падчас бамбёжкі ля Гарадзеі. У Бэрліне ў сэрыі "Народная бібліятэчка" выйшла ягоная кніга "Адам і Ева. Чабор. Апавяданьні".

**Русак Васіль** (1896 — пасьля 1946), беларускі нацыянальны дзяяч, прадпрымальнік. Нарадзіўся ў в. Ячава Слуцкай воласьці. У 1917—1920 г. удзельнік беларускага вайсковага руху, браў удзел ува Ўсебеларускім зьезьдзе (сьнежань 1917), Слуцкім паўстаньні (1920). Напрыканцы 1922 г. выехаў у Чэхію, вучыўся ў Праскай вышэйшай тэхнічнай школе на агранамічным факультэце, браў удзел у грамадзка–палітычным жыцьці беларускай эміграцыі, адзін з кіраўнікоў АБСА. Выдаў "Беларускі сьпеўнік" (1934), фундаваў выданьне часопіса "Іскры Скарыны", выпусьціў на нямецкай мове інфармацыйную брашуру пра Беларусь з этнаграфічнай картай (1939 г.), паштоўку з выявай Пагоні (1941), "Беларускія (крывіцкія) песьні" (1943). У чэрвені 1945 г. арыштаваны савецкімі акупацыйнымі органамі, асуджаны на 10 гадоў канцлягеру. Далейшы лёс невядомы.

**Салавей Алесь** (сапр. **Радзюк Альфрэд**) (1922—1978), беларускі паэт. Нарадзіўся ў в. Крысава Койданаўскага раёну. Падчас нямецкай акупацыі — супрацоўнік рэдакцыі "Новы Шлях", выдаў зборнік вершаў "Мае песьні". Зь лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, Аўстрыі, Аўстраліі. Жыў пад імем Альбэрт Кадняк.

**Случанін** (сапр. **Шпакоўскі**) **Лявон** (1914—1995), беларускі паэт. Нарадзіўся ў в. Лучнікі Слуцкага пав. Вучыўся ў Слуцкім пэдтэхнікуме, Менскім пэдагагічным інстытуце, які закончыў у 1936 г. Быў рэпрэсаваны, высланы на будову Беламорска–балтыйскага каналу, у варкуцінскія шахты. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Беларусі, працаваў у рэдакцыі "Газэты Случчыны", а ў 1944 г. выйшла яго гістарычная паэма "Рагнеда". Летам 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе праз год быў арыштаваны савецкімі орга-

[64] Паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу. — *А.С.*

намі, адпраўлены ў лягер. Пасьля вызваленьня жыў у Салігорску, друкаваўся.

**Станкевіч Адам** (1891—1949), каталіцкі сьвятар, рэлігійны і палітычны дзяяч, гісторык, літаратуразнаўца і выдавец. Нарадзіўся ў в. Арляняты Ашмянскага пав. Адзін з заснавальнікаў хрысьціянска–дэмакратычнай злучнасьці ў Петраградзе (1917 г.), галоўны ідэоляг Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі (БХД), аўтар шматлікіх кніг і артыкулаў. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Вільні, выдаў вучнёўскі малітаўнічак і "Патрэбнейшыя выняткі з Рытуалу". У 1949 г. высланы ў лягер у Іркуцкую вобл., дзе і памёр.

**Станкевіч Янка** (1891—1976), беларускі мовазнавец, гісторык, палітычны дзяяч. Нарадзіўся ў в. Арляняты Ашмянскага пав. Скончыў Карлаў унівэрсытэт у Празе з ступеньню доктара філязофіі (1926), выкладаў беларускую мову ў Варшаўскім і Віленскім унівэрсытэтах, аўтар шматлікіх мовазнаўчых і гістарычных працаў, школьных падручнікаў. Падчас другой сусьветнай вайны дзейнічаў у Вільні, Варшаве, Празе і Менску. Заснаваў і ўзначаліў Партыю беларускіх нацыяналістаў, галоўны рэдактар праскіх курсаў беларусаведы, аўтар некалькіх кніг, выдадзеных у 1942—1944 г. у Менску. Зь лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у ЗША, дзе працягваў навуковую дзейнасьць.

**Сяднёў Масей** (1913—2001), беларускі паэт, празаік. Нарадзіўся ў в. Мокрае Касьцюковіцкага раёну[65]. Вучыўся ў Менскім пэдагагічным інстытуце, у 1936 г. быў рэпрэсаваны і высланы на Калыму. У чэрвені 1941 г. прывезены ў Менск на перагляд справы. Падчас нямецкай акупацыі жыў у бацькоў у вёсцы Мокрае, у кастрычніку 1943 г. у сувязі з набліжэньнем Чырвонай Арміі выехаў у Беласток, працаваў у рэдакцыі "Новая Дарога", падрыхтаваў зборнік вершаў "Ад сына твайго, Беларусь" і кнігу "Ахвяры бальшавізму".

**Тумаш Вітаўт** (1910—1998), лекар, гісторык, публіцыст. Нарадзіўся ў в. Сьпягліца Вялейскага раёну[66]. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і мэдыцынскі факультэт Віленскага ўнівэрсытэту (1937), дзяяч Беларускага студэнцкага саюзу. У 1940—1941 г. — старшыня Лодзінскага аддзяленьня БКС у Нямеччыне, зь ліпеня 1941 г. да сярэдзіны лістапада 1941 г. — бурмістар Менску. Выехаў у Нямеччыну, рэдагаваў "Раніцу", складальнік і рэдактар зборніка Л. Геніюш "Ад родных ніў". Пасьля вайны жыў у Нямеччыне, потым у ЗША. Аўтар шматлікіх навуковых працаў, асабліва ў галіне скарыніяны.

**Туранкоў Аляксей** (1886—1958), кампазытар. Нарадзіўся ў Пецярбургу. Адзін з пачынальнікаў жанраў масавай песьні, хору, рамансу ў беларускай музыцы. У 1941—1944 г. супрацоўнік ВШПЛМ у Менску і выдавецтва К. Езавітава ў Рызе. Пасьля вайны рэпрэсаваны, сасланы на 10 гадоў у лягер, пасьля вызваленьня вярнуўся ў Беларусь, дзе неўзабаве і памёр.

**Шутовіч Віктар** (1890—1960), каталіцкі сьвятар, публіцыст. Нарадзіўся ў в. Шутавічы Ашмянскага пав. Апрацаваў зборнік "Калядныя песьні", выдадзены Нінай Абрамчык у Бэрліне. Вясной 1944 г. прыехаў зь Беласточчыны ў Менск, служыў у Чырвоным касьцёле. У сьнежні 1945 г. арыштаваны, высланы ў лягер. У 1953 г. вызвалены, вярнуўся ў Менск, з 1956 г. служыў у Барысаве.

**Шчаглоў (**на эміграцыі **Куліковіч) Мікола** (1896—1969), кампазытар, дырыжор, пэдагог. Нарадзіўся на Смаленшчыне[67]. З 1936 г. працаваў у Менску. У гады нямецкай акупацыі пісаў музыку для менскага тэатру эстрады, стварыў опэры на лібрэта Н. Арсеньневай "Лясное возера", "Усяслаў Чарадзей" і апэрэту "З выраю", апрацаваў СБМаўскі "Юнацкі сьпеўнік". Супрацоўнік ВШПЛМ, пісаў на музычныя тэмы ў "Бела-

---

[65] Паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу. — *А.С*

[66] Паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу. — *А.С*

[67] Ёсьць розныя зьвесткі аб даце і месцы нараджэньня М. Шчаглова: 1893 (Смаленшчына), 1896 ці 1897 (Масква). — *А.С*

рускай Газэце” і “Новым Шляху”. Летам 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе выдаў кнігу “Беларуская музычная культура”. З 1950 г. жыў у ЗША, аўтар зборнікаў песьняў, працаў па гісторыі музыкі, шматгадовы рэгент хору беларускай Грэка–Каталіцкай царквы ў Чыкага.

**Сьпіс скаротаў**

АБСА — Аб’яднаньне беларускіх студэнцкіх арганізацыяў
БДАЛІМ — Беларускі дзяржаўны архіў–музэй літаратуры і мастацтва
БДУ — Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт
БІБ — Беларускае інфармацыйнае бюро
БНР — Беларуская Народная Рэспубліка
БНС — Беларуская народная самапомач
БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка
БХД — Беларуская хрысьціянская дэмакратыя
БЦР — Беларуская цэнтральная рада
БКС — Беларускі камітэт самапомачы ў Нямеччыне
в. — вёска
вобл. — вобласьць
ВШПЛМ — Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі
г. — год або горад
губ. — губэрня
МВДТ — Менскае выдавецкае і друкарскае таварыства
НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусі
НББ — Нацыянальная бібліятэка Беларусі
пав. — павет
ПАРП — Польская аб’яднаная рабочая партыя
РКП(б) — Расейская камуністычная партыя (бальшавікоў)
РМ — райхсмарка
СБМ — Саюз беларускай моладзі
СССР — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік
с/с — сельсавет
ЦК — Цэнтральны камітэт
ЭХБ — (царква) эвангельскіх хрысьціян–баптыстаў

*Друкуецца паводле:* Туронак Ю. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем. 1939—1944. Мінск, 2002

# Фабіян Акінчыц — правадыр беларускіх нацыянал–сацыялістаў

Напрыканцы 1933 г. на заходнебеларускай сцэне ўзьнікла групоўка, якая абвясьціла сябе нацыянал–сацыялістычным актывам. Яе заснавальнікам, ідэолягам і правадыром быў Фабіян Акінчыц, які здабываў вопыт палітычнай дзейнасьці ў партыі расейскіх эсэраў, у БСР Грамадзе[1], Цэнтрасаюзе і іншых беларускіх арганізацыях[2].

Пад ўражаньнем перамогі нацыянал–сацыялістычнага руху ў Нямеччыне Акінчыц канчаткова адмовіўся ад ілюзіі дэмакратычнага ладу і дайшоў да перакананьня, што нацыянальныя і сацыяльныя нягоды беларускага народу можна пасьпяхова вырашыць праз ажыцьцяўленьне праграмных прынцыпаў нацыянал–сацыялізму, такіх, як умацаваньне нацыянальнай супольнасьці, клясавая салідарнасьць, сацыяльны прагрэс, канфэсійная свабода ды іншыя.

Акінчыц і яго паплечнікі лічылі, што ўзьяднаньне разарваных Рыскім трактатам беларускіх зямель магчыма толькі ў выніку вайны. Гэты іх погляд асуджаўся гісторыкамі БССР, якія быццам бы ня ведалі таго, што ў канцы 1939 г. далучэньне заходнебеларускіх абшараў да савецкай Беларусі адбылося выключна ў выніку агрэсіі Чырвонай Арміі на Польшчу.

Прэсавым органам беларускіх нацыянал–сацыялістаў быў часопіс “Новы Шлях”, які выдаваўся зь лістапада 1933 да лістапада 1937 г. пад рэдакцыяй Уладзіслава Казлоўскага. Часопіс выходзіў у сярэднім раз на два месяцы ў невялікім фармаце, аб’ёмам 8 старонак, а яго разавы наклад не перавышаў 500 асобнікаў.

Беларускія і польскія апанэнты нярэдка лічылі групоўку Акінчыца агентурай нямецкіх нацыстаў, якая фінансавалася бэрлінскімі ўладамі. Магчыма, гэтыя ацэнкі адпавядалі сапраўднасьці, аднак сьціплы выгляд “Новага Шляху” і адсутнасьць іншай прапагандысцкай літаратуры паказвае, што фінансавая дапамога нямецкіх ідэалягічных саюзьнікаў магла быць, хутчэй за ўсё, сымбалічнай.

Прагматычныя немцы не сьпяшаліся выдаткоўваць грошы. На гэта былі істотныя прычыны: па–першае, слабое зацікаўленьне беларускай інтэлігенцыі і сялянства новым ідэалягічным напрамкам і, па–другое, супрацьдзеяньне польскіх адміністрацыйных уладаў, якія ў кастрычніку 1936 г. забаранілі правядзеньне зьезду беларускіх нацыянал–сацыялістаў, а восеньню 1937 г. — усю іх дзейнасьць у пагранічнай зоне 150 км, г.зн. на большай частцы заходнебеларускай тэрыторыі[3].

На гэтым закончылася дзейнасьць юрыдычна неафармленай партыі нацыянал–са-

---

[1] Беларуская сялянска–работніцкая грамада. — *А.С.*

[2] Фабіян Акінчыц нарадзіўся 20 студзеня 1886 г. у вёсцы Акінчыцы Навасьвержанскай воласьці Менскага павету ў заможнай каталіцкай сям’і Яна і Эміліі. У 1906 г. паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсытэту, які скончыў у 1913 г. Працаваў юрыстам. У 1906—1917 г. — дзяяч расейскай Партыі сацыялістаў–рэвалюцыянэраў. У 1923 г. вярнуўся на радзіму, настаўнічаў у Засульлі на Стаўпцоўшчыне, з жніўня 1926 г. член кіраўніцтва БСР Грамады, у студзені 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі. Пасьля турэмнага зьняволеньня зь верасьня 1930 да сакавіка 1931 г. член кіраўніцтва “Цэнтрасаюзу“, пазьней “Адраджэньня“ і Беларускага дабрачыннага таварыства. Аўтар кніг “Чаму гэта так сталася“ (1931), “Правакацыя беларускага народу“ (1933), “Аграрна–каапэратыўная палітыка будучыні“ (1936), “Jak Komintern organizował ruch białoruski“ (1938); выдавец газэт “Голас Праўды” і аднадзёнак “Праўда” і “Беларуская Праўда”.

[3] Новы Шлях. 1937. 25 лістапада.

цыялістаў. Рэдакцыя “Новага Шляху“ была перанесена ў Ліду, дзе 25 лістапада 1937 г. выпусьціла апошні нумар газэты. У сьнежні 1936 г. Акінчыц абвясьціў сябе хворым, вярнуўся ў свае Акінчыцы і чакаў выбуху, які павінен быў разбурыць створаны ў Вэрсалі і Рызе палітычны лад у Эўропе.

Пасьля таго, як у студзені 1939 г. польскі ўрад адкінуў прапанаваны Гітлерам праект сумеснага паходу на Савецкі Саюз, нямецка–польская вайна ўжо была непазьбежнай. Вясной Акінчыц выехаў у Нямеччыну і прапанаваў дывэрсійныя паслугі беларускіх нацыянал–сацыялістаў у спадзяванай вайне. З такой мэтай у чэрвені 1939 г. у вольным горадзе Данцыг (Гданьск) была арганізавана сустрэча нямецкіх чыноўнікаў зь беларускімі нацыстамі[4].

Незалежна ад прынятых пастановаў, пра якія пакуль што ня выяўлена дакладных архіўных матэрыялаў, Данцыская канфэрэнцыя ня мела практычных наступстваў. Пасьля жніўеньскага пагадненьня ўрадаў СССР і Нямеччыны аб сумесных дзеяньнях Вэрмахту і Чырвонай Арміі ў Польшчы[5] любая падтрымка беларускіх нацыянал–сацыялістаў ужо не была патрэбная. Больш за тое, кіруючыся карэктнымі адносінамі да новага саюзьніка, нямецкія ўлады забаранілі эміграцкім арганізацыям у Нямеччыне выказваць вусна ці пісьмова варожае стаўленьне да Савецкага Саюзу[6].

Акінчыц апынуўся ў складаным становішчы і чакаў ласкі лёсу. Аднак нямецкія ўлады, відаць, не сьпяшаліся зь яго выкарыстаньнем. Паводле Станіслава Грынкевіча (малодшага), 4 лістапада 1939 г. Акінчыц узначаліў Беларускае прадстаўніцтва ў Бэрліне — урадавую ўстанову, у якой ня мог разгортваць некантраляваную палітычную дзейнасьць[7]. Алесь Вініцкі лічыць, што ў сьнежні 1939 г. Акінчыцу даручылі выпуск першых нумароў “Раніцы“[8]. Аднак і ў прадстаўніцтве, і ў рэдакцыі ён працаваў толькі некалькі тыдняў і на пачатку 1940 г. быў накіраваны ў Варшаву для арганізацыі Беларускага самадапамогавага камітэту ў генэральным губэрнатарстве.

Новая роля, відаць, адпавядала Акінчыцу, які на базе сваіх аднадумцаў у генэральным губэрнатарстве спадзяваўся стварыць грамадзкую апору для беларускай нацыянал–сацыялістычнай арганізацыі. Аднак, калі ў лютым або на пачатку сакавіка 1940 г. ён прыбыў у Варшаву, тут ужо дзейнічаў камітэт, заснаваны напрыканцы 1939 г. маладым лекарам Міколам Шчорсам. Пачалося змаганьне за кіраўніцтва. Акінчыц, карыстаючыся падтрымкай бэрлінскіх чыноўнікаў, у сакавіку 1940 г. выключыў Шчорса і яго каманду з камітэту, што ў сваю чаргу выклікала абурэньне і супрацьдзеяньне яго

[4] Пра Данцыскую канфэрэнцыю польскія ўлады ня мелі дакладных зьвестак. Апублікаваная В. Склубоўскім у беластоцкай “Ніве” (1982. 19 верасьня) інфармацыя польскага міністэрства ўнутраных спраў называе яе “зьездам беларускага нацыянальнага руху”, які прыняў пастанову, што Беларусь можа атрымаць незалежнасьць толькі з дапамогай Нямеччыны. Ніякіх зьвестак пра ўдзельнікаў гэтага “зьезду” ўлады ня мелі. Усё ж гэтага было дастаткова для інсьпірацыі шуміхі ў польскіх газэтах, якія “дапрацоўвалі” падрабязнасьці, патрэбныя для абгрунтаваньня антыбеларускіх рэпрэсіяў. “Kurjer Polski” (22.06.1939) Данцыскую канфэрэнцыю назваў “кангрэсам беларускіх дзяячоў з Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, савецкай Расеі і ЗША”. Гэтыя сэнсацыі паўтарыў Цанава, па–свойму іх “удакладняючы”. У выніку, зь ліку ўдзельнікаў зьніклі прадстаўнікі савецкіх беларусаў, а саму падзею ён назваў канфэрэнцыяй прадстаўнікоў капіталістычных краін з удзелам, між іншых, Язэпа Варонкі. Такім чынам, Цанава імкнуўся дыскрэдытаваць увесь беларускі незалежніцкі рух як агентуру фашысцкай Нямеччыны. Гл.: Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Т. II. Минск, 1951. С. 882; Гл. таксама: Chryścjanskaja Dumka. 1.07.1939.

[5] Маюцца на ўвазе сакрэтныя пратаколы, далучаныя да савецка–нямецкай дамовы аб ненападзе ад 23 жніўня 1939 г. — *А.П.*

[6] Косик В. Україна і Німеччина у Другій світовій війні. Париж—Львів—Нью–Йорк, 1993. С. 486 (дакумэнт № 35).

[7] Грынкевіч С. Ліст у рэдакцыю // Беларуская Царква. Чыкага, 1965. № 28. С. 193.

[8] Вініцкі А. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гг. Мінск, 1994. С. 12.

актывістаў. Спатрэбілася інтэрвэнцыя нямецкай службы бясьпекі, якая ў палове 1940 г. ліквідавала скандал — вярнула Шчорса на пасаду старшыні камітэту, а Акінчыца адправіла ў Бэрлін[9].

Такой трактоўкі Акінчыц не чакаў. Маючы на ўвазе некалькігадовае супрацоўніцтва зь нямецкімі нацыянал–сацыялістамі, ён спадзяваўся на кіраўнічую ролю сярод беларускіх эміграцкіх груповак у Нямеччыне і на акупаваных ёю тэрыторыях. Аднак дагэтуль яму не шанцавала і раз–пораз ён быў вымушаны саступаць кіраўнічыя пасады ў Бэрліне і Варшаве сваім канкурэнтам. Непакоіла яго і дзейнасьць лідэра праскай групоўкі Івана Ермачэнкі, які запрашаўся ў міністэрства замежных спраў у Бэрлін.

Неўзабаве пасьля вяртаньня ў Бэрлін Акінчыц разгарнуў змаганьне за лідэрства. На гэта паўплывала адна важная прычына: 21 ліпеня 1940 г. Гітлер абвясьціў галоўнаму камандаваньню Вэрмахту сваё рашэньне аб паходзе на СССР, якога чакалі ўсе беларускія групоўкі ў Бэрліне, Парыжы, Празе і Варшаве. Пасьлядоўна адкрывалася пэрспэктыва дзейнасьці ў акупаванай Беларусі, у сувязі з чым змаганьне за лідэрства набывала новую якасьць, непараўнальную з рэаліямі эміграцыі.

1 лістапада 1940 і 10 студзеня 1941 г. Акінчыц накіраваў ува ўсходняе бюро нацысцкай партыі два мэмарыялы з прапановай паслуг беларускіх нацыянал–сацыялістаў у чаканых падзеях[10]. Паводле Акінчыца, заснаваная ў 1940 г. у Варшаве група яго аднадумцаў плянавала актывізаваць сваю дзейнасьць галоўным чынам у наступных сфэрах:

— выпуск брашур;

— арганізацыя курсаў па падрыхтоўцы палітыкаў, адміністрацыйных і гаспадарчых службаў, публіцыстаў і журналістаў, між іншым, зь ліку ваеннапалонных беларускай нацыянальнасьці;

— падрыхтоўка дывэрсійных групаў для дзейнасьці на тэрыторыі Беларускай ССР.

Далей Акінчыц пісаў, што такія задачы маглі выканаць толькі яго аднадумцы, у сувязі з чым ім павінна быць вызначана кіраўнічая роля.

> Другая палітычная група, — пісаў ён, — настроена дэмакратычна. Яе адносіны да камуністаў сумніцельныя, яны патаемна сымпатызуюць яўрэям, схільны да панславізму, з скрытым недаверам адносяцца да Нямеччыны. Яна (група. — *Ю.Т.*) ня верыць у перамогу Нямеччыны і, мяркуючы па яе палітычнай пазыцыі, імкнецца не скампрамэтаваць сябе ні перад палякамі, ні перад камуністамі, або лічыць на тое, што пасьля паражэньня Нямеччыны камуністы, а разам зь імі палякі і яўрэі будуць панаваць у Эўропе. Гэтая група адносіцца да нашай арганізацыі вельмі варожа, пастаянна імкнецца яе зьнішчыць і ні ў якім разе не дапусьціць, каб нямецкія ўстановы лічыліся зь яе поглядамі.

Сьледам за такой характарыстыкай незалежных ад Акінчыца груповак ішлі яго даносы на іх кіруючых дзяячоў — рэальных і ўяўных канкурэнтаў: Міколу Шчорса, Вінцэнта Гадлеўскага і Янку Станкевіча ў Варшаве, Вітаўта Тумаша ў Лодзі, Анатоля Шкутку ў Бэрліне, якія, на думку Акінчыца, павінны быць заменены яго аднадумцамі. Крытыкаваліся і беларусы ў Празе, большасьць якіх, паводле аўтара мэмарыялаў, былі настроены дэмакратычна і лева.

Аднак і гэтым разам намаганьні Акінчыца былі безвыніковыя. У сувязі з забаронай

[9] Інфармацыя былых дзяячоў Беларускага камітэту ў Варшаве Міколы Ждановіча і Баляслава Манкевіча з 1983 г.

[10] Die weissruthenische Frage: Bericht über die beiden weissruthenischen politischen Gruppen, Архіў новых актаў у Варшаве, александрыйскія мікрафільмы, T—81, ролік 13, EAP—250D—18—10/4. (Матэрыялы *Oststelle NSDAP*.)

дзейнасьці ў Нямеччыне і на акупаваных ёю абшарах любых, акрамя NSDAP[11], палітычных партыяў, не магла быць заснавана і партыя беларускіх нацыянал–сацыялістаў, а яе прыхільнікі выконвалі даручэньні нямецкіх уладаў у індывідуальным парадку.

Ня браліся пад увагу і парады наконт выведнай і дывэрсійнай службы. Галоўнае камандаваньне Вэрмахту і без Акінчыца ведала як рыхтавацца да вайны і толькі зь сьнежня 1940 да сакавіка 1941 г. заслала ў заходнія раёны СССР 66 шпіёнска–дывэрсійных групаў, якія складаліся зь беларусаў, украінцаў, літоўцаў і іншых[12]. Дарэчы, некаторыя зь іх былі арганізаваны ня толькі з дапамогай Акінчыца, але і ягоных апанэнтаў — Шчорса, Гадлеўскага, Тумаша і, магчыма, іншых[13].

Улады не дапусьцілі Акінчыца і да афіцыйнай прапагандысцкай дзейнасьці. Верагодна, на гэта ўплываў яго бескампрамісны антыбальшавізм, які не адпавядаў тагачасным адносінам Нямеччыны да Савецкага Саюзу. З гэтай прычыны ён быў вымушаны пакінуць рэдакцыю "Раніцы", а таксама ня ўдзельнічаў у прапагандысцкай арганізацыі "Вінэта". Усё ж у першай палове 1941 г. Акінчыц і яго людзі выпусьцілі ў Бэрліне ратапарнай тэхнікай дзьве брашуры пад псэўданімам Усевалада Вераса "Як створым нашую сілу" і "Шляхом барацьбы Беларусі з Москвою", якія вонкава нагадвалі нелегальныя публікацыі[14].

Летам 1941 г., калі служба бясьпекі ў Бэрліне, Варшаве і Лодзі накіроўвала ў акупаваную Беларусь дзясяткі беларусаў для арганізацыі адміністрацыі, Акінчыц надалей заставаўся ў Бэрліне і сачыў за падзеямі ў Беларусі. Тым часам весткі, якія атрымліваў, не суцяшалі.

Асабліва істотнае значэньне мела кадравае становішча ў першыя месяцы акупацыі. Прывезеныя з эміграцыі кадры (паводле розных ацэнак — ад 30 да 50 чалавек) былі нешматлікія і ў большасьці не падрыхтаваныя для выкананьня патрабаваньняў акупацыйных уладаў. Выключна слабы быў удзел беларусаў у арганізацыі службы парадку (дапаможнай паліцыі), таму нямецкія вайсковыя ўлады накіроўвалі ў Беларусь літоўскія, латыскія і ўкраінскія паліцэйскія фармаваньні, а ў яе заходніх акругах ахвотна давяралі кіраўніцтва мясцовай адміністрацыяй і дапаможнай паліцыяй больш дасьведчаным палякам. З пачаткам верасьня 1941 г. частка Беларусі зь Менскам была перададзена цывільным уладам, аднак патэтычныя заклікі і лёзунг яе генэральнага камісара Вільгельма Кубэ ("Беларусь для беларусаў" і падобныя) пакуль што не мянялі становішча.

Сярод беларускіх дзеячоў, якія спадзяваліся на падтрымку нямецкімі ўладамі іх нацыянальна–дзяржаўных памкненьняў, запанавала расчараваньне. Адны лічылі, што немцы не давяраюць беларусам і фаварызуюць палякаў і літоўцаў, а іншыя самакрытычна прызнавалі сваю няздольнасьць стварыць нацыянальнае самакіраваньне нават у тых сьціплых рамках, якія дапускаліся акупацыйнымі ўладамі. У многіх выпадках пачуцьцё сваёй няпаўнавартасьці перапляталася зь бязраднасьцю, што садзейнічала пашырэньню настрояў пасіўнасьці і адмаўленьня ад грамадзкай дзейнасьці.

Бадай, першы расчараваўся старшыня групоўкі "Цэнтар" доктар Мікола Шчорс, які ў ліпені—жніўні 1941 г. на чале групы эмігрантаў імкнуўся арганізаваць у Беларусі краёвае самакіраваньне пад нямецкім патранатам. Аднак некампэтэнтнасьць ваенных уладаў і абыякавасьць нешматлікіх нацыянальных дзеячоў вымусіла яго адмовіцца ад гэтага намеру і вярнуцца ў Варшаву. Так безь ніякіх намаганьняў Акінчыца выпаў з

[11] NSDAP — Nationalsozialistische Deutsche Arbeiterpartei, Нацыянал–сацыялістычная нямецкая рабочая партыя. — *А.С.*

[12] Mader J. Hitlers Spionagegenerale sagen aus. Berlin, 1974. S. 269, 342.

[13] Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня. Мінск, 1993. С. 255; Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 510—677 гэтага выданьня. — *Рэд.*

[14] Туронак Ю. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем. С. 323—372 гэтага выданьня. — *Рэд.*

палітычнай гульні яго галоўны канкурэнт да ўяўнай улады ў Беларусі. Зь іншых прычынаў ня змог замацавацца ў Менску і Радаслаў Астроўскі, які ў кастрычніку 1941 г. выехаў у Бранск і пазьней — у Смаленск.

Аднак і цяпер не збыліся спадзяваньні Акінчыца на ролю беларускага лідэра. У верасьні 1941 г. міністар акупаваных усходніх абшараў Альфрэд Розэнбэрг паслаў у Менск доктара Івана Ермачэнку, які ўзначаліў Беларускую народную самапомач (БНС) — пакуль што адзіную легальную грамадзкую арганізацыю. Ермачэнка карыстаўся даверам генэральнага камісара Кубэ, яны разам ажыцьцяўлялі розныя мерапрыемствы, накіраваныя на паступовую беларусізацыю адміністрацыі, арганізацыю антыпартызанскай самаахові, разьвіцьцё школьніцтва і нацыянальнай самасьвядомасьці народу, на стварэньне ў пэрспэктыве беларускай дзяржавы зь Ермачэнкам як прэм'ерам яе ўраду.

Такі кірунак дзеяньняў Кубэ і Ермачэнкі, на добры лад, няшмат адрозьніваўся ад імкненьняў Акінчыца з адным выняткам — ён сам хацеў быць будаўніком беларускай дзяржавы. Цяпер, пасьля адыходу з палітычнай сцэны Шчорса і Астроўскага, яго галоўным праціўнікам стаў Ермачэнка. Аднак змагацца зь ім Акінчыцу было няпроста — абодва былі службоўцамі ведамства Розэнбэрга, таму ніякія звыклыя дзеяньні Акінчыцу не варажылі посьпеху і трэба было выяўляць новыя ініцыятывы.

Паколькі партыйная дзейнасьць была забароненая нямецкімі ўладамі, летам 1941 г. Акінчыц выпрацаваў альтэрнатыўную канцэпцыю "руху маладых актывістаў", мэтай якога было ўзгадаваньне беларускай моладзі ў духу адданасьці акупацыйнаму рэжыму. Паводле яго задумы, моладзь павінна была ўдзельнічаць у змаганьні з ворагамі новага ладу, між іншым, ствараць свае атрады СС, а ў пэрспэктыве быць падставай агульнакраёвай беларускай арганізацыі, якая была б надзейнай апорай нямецкага кіраўніцтва. У прыватнасьці, беларускія юнацкія атрады СС дазволілі б замяніць літоўскія, латыскія і ўкраінскія паліцэйскія батальёны і паўплываць на рост нацыянальнай самасьвядомасьці народу.

Улічваючы скептыцызм Розэнбэрга і яго чыноўнікаў у вырашэньні беларускага пытаньня, Акінчыц насуперак спадзяваньням беларускіх канкурэнтаў даказваў, што пакуль не існавала магчымасьці стварэньня беларускай дзяржавы — для гэтага не было належных умоў: народ знаходзіўся ў летаргічным сьне, нацыянальная сьвядомасьць — паралізавана. Таму не маглі быць творцамі Беларусі "папяровыя генэралы, прафэсары і дактары", якія хацелі б адраджаць яе зьверху — беларускае адраджэньне трэба пачынаць зьнізу пад нямецкім кіраўніцтвам[15].

Усё ж, нягледзячы на зацікаўленьне некаторых ваенных камэндатур, аднадумцам Акінчыца не ўдалося заснаваць такую арганізацыю моладзі ў краёвым маштабе, але прынамсі ў Глыбоцкай акрузе летам 1941 г. яна была створана. Восеньню гэтага ж году яна была ўхвалена акруговым камісарам Паўлем Гахманам і дзейнічала да чэрвеня 1943 г., калі ўлілася ў арганізаваны тады Саюз беларускай моладзі (СБМ)[16]. Магчыма, яе заснавальнікам у Глыбокім быў паплечнік Акінчыца Ўладзіслаў Казлоўскі.

Гэтым разам ініцыятыва Акінчыца не была безвыніковай. Праўда, стварэньне "руху маладых актывістаў" пакуль што не адбылося, але яго канцэпцыя, якая адлюстравалася ў рапартах службы бясьпекі, стала вядомай у бэрлінскіх кіраўнічых колах, зацікаўленых узгадаваньнем надзейных кадраў для акупацыйнага праўленьня ў Беларусі. Стварыць гэтыя кадры Розэнбэрг даручыў Акінчыцу.

Позьнім летам, пасьля атрыманьня згоды галоўнага камандаваньня Вэрмахту, ведамства Розэнбэрга дазволіла Акінчыцу выбраць зь лягераў савецкіх ваеннапалон-

[15] Ereignismeldung UdSSR Nr 154, 12.01.1941, ААН, александрыйскія мікрафільмы, Т—175, ролік 234/2723569.

[16] Пасьляэвакуацыйная справаздача акруговага камісара ў Глыбокім ад 16.08.1944, тамсама, Т—454, ролік 102/309.

ных пэўную колькасьць інтэлігентных беларусаў для працы ў якасьці перакладчыкаў і прапагандыстаў у нямецкіх установах у Беларусі. Не закраналіся пры гэтым у размовах з Акінчыцам ці беларускімі арганізацыямі ў Бэрліне палітычныя аспэкты гэтых акцыяў[17]. У верасьні 1941 г. была створана камісія, якая прачэсвала лягеры палонных і ацэньвала кваліфікацыю кандыдатаў на падрыхтоўчы курс у мясцовасьці Вустраў пад Бэрлінам. Працай камісіі кіраваў Акінчыц, а яе членамі былі Васіль Камароўскі і Аляксандар Крыт. Неўзабаве да іх далучыўся Генрык Барановіч. З восені 1941 г. яны працавалі як арганізатары і лектары ў Вустраўскай школе прапагандыстаў[18]. Магчыма, працавалі там яшчэ іншыя асобы, пра якіх пакуль што няма пэўных зьвестак.

Няма дакладных дадзеных і пра колькасьць палонных чырвонаармейцаў, якія пагадзіліся з прапановай камісіі і перавыхоўваліся ў Вустраве. Паводле Сымона Шаўцова, сабралася там 80 беларусаў[19]. Іван Касяк ацэньваў іх колькасьць на 60 чалавек[20]. Няясныя выказваньні Алеся Вініцкага, які піша, што зь лягераў было выбрана каля сотні кандыдатаў, аднак курс праслухала ўсяго каля 20 чалавек[21]. Усе гэтыя зьвесткі выглядаюць неверагодна ў супастаўленьні з інфармацыяй Аляксея Салаўёва, паводле якой толькі ў лютым 1942 г. у Менск на чале з Акінчыцам прыбыла група прапагандыстаў у колькасьці 70 чалавек[22]. Магчыма, агульная колькасьць дастаўленых у Беларусь гадунцоў Акінчыца перавышала сотню.

Няшмат вядома і пра пэрсаналіі вустраўскіх курсантаў. Тыя, якім пасьля вайны ўдалося пазьбегнуць прымусовай рэпатрыяцыі ў СССР, — як Уладзімер Гарэлік (Латушкін) і Язэп Лешчанка (літаратурны псэўданім Міхась Кавыль), — маўчалі, і толькі Сымон Шаўцоў з Аўстраліі напрыканцы жыцьця апублікаваў кароткі ўспамін аб Акінчыцавай школе і яе навучэнцах (Мая адысэя. Вільня, 1999). Таксама маўчалі на эміграцыі Барановіч, Камароўскі і Крыт, а Вініцкі ў сваіх “Матэрыялах да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне” прынцыпова пазьбягаў называць прозьвішчы курсантаў. У апошнія гады крыху пэрсанальных зьвестак выявілі менскія дасьледчыкі СБМ Алег Гардзіенка і Аляксандар Каваленя, якія карысталіся архіўнымі крыніцамі.

На падставе гэтых публікацыяў можна вызначыць прозьвішчы 18 курсантаў: Бабкоў, Язэп Беразоўскі, Сяргей Бузак, Бядрыцкі, Уладзімер Гарэлік, Міхась Ганько, Гарбуноў, Жыркевіч, Мікіта Каляда, Калядка, Караваеў, Язэп Лешчанка, Палікар Манькоў, Зьміцер Стэльмах, Георгі Фролаў, Міхась Цікуноў, Сымон Шаўцоў і Фёдар Шпак. Усе

---

17 Ereignismeldung UdSSR Nr 190, 8.04.1942, AAH, T—175, ролік 235/2724178.

18 Генрык Барановіч (1916—2002), ураджэнец Ашмяншчыны, удзельнік нямецка–польскай вайны, вызвалены зь лягеру ваеннапалонных (1940), з восені 1941 г. супрацоўнік Акінчыца ў Вустраўскай школе прапагандыстаў, зь лістапада 1943 г. арганізатар і кіраўнік Працоўнай групы СБМ у Нямеччыне, рэдактар часопіса “Малады Змагар”. Пасьля вайны жыў у г. Таронта, Канада.

Васіль Камароўскі (1914—1951), ураджэнец Стаўпеччыны, удзельнік нямецка–польскай вайны, пасьля вызваленьня ў сакавіку 1941 г. зь лягеру ваеннапалонных сакратар Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне, з восені 1941 г. супрацоўнік Акінчыца. З 1950 г. жыў у г. Таронта, Канада, член замежнага сэктару Беларускай народнай грамады, супрацоўнік часопіса “Баявая Ўскалось”. Памёр у Таронта.

Аляксандар Крыт (1901—1983), ураджэнец Стаўпеччыны, верагодна, удзельнік нямецка–польскай вайны, зь вясны 1941 г. член управы Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне, зь верасьня 1941 г. супрацоўнік Акінчыца. Пасьля вайны сьвятар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Англіі і ЗША (1950—1968), япіскап (1968), архіяпіскап (1970), мітрапаліт (1972). Памёр у г. Кліўлэндзе, ЗША.

19 Шаўцоў С. Мая адысея. Вільня, 1999. С. 41.

20 Найдзюк Я., Касяк I. ... С. 281.

21 Вініцкі А. ... С. 17.

22 Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. Минск, 1995. С. 146.

яны былі афіцэрамі Чырвонай Арміі і, акрамя Міхася Ганька, усе паходзілі з Усходняй Беларусі, дзе атрымалі адукацыю і ўзгадоўваліся ў духу камуністычнай ідэалёгіі і савецкага патрыятызму. Палонныя афіцэры былі звыклыя да дысцыпліны і нацыянальнымі амбіцыямі ў большасьці не кіраваліся. Відаць, дзякуючы гэтым якасьцям іх дапусьцілі на курс і да службы ў Беларусі.

Заняткі ў Вустраве трывалі каля шасьці месяцаў з кожнай групай курсантаў. За гэты час яны павінны былі засвоіць прынцыпы дзеяньня нямецкай цывільнай адміністрацыі ў Беларусі, мэтад змаганьня з бальшавіцкай ідэалёгіяй, вывучалі нямецкую і беларускую мовы, практыкаваліся ў публічных выступленьнях. Асаблівую ўвагу Акінчыц зьвяртаў на азнаямленьне слухачоў з сваёй нацыянальнай канцэпцыяй, прычым прышчапляў ім пагарду да — на яго думку — “бесхрыбетных шкурнікаў”, “гнілых дэмакратаў” і да т.п., якія, карыстаючыся непасьлядоўнасьцю нямецкага кіраўніцтва, пралезьлі ў БНС.

Пасьля сканчэньня курсу Акінчыц дастаўляў падрыхтаваныя групы прапагандыстаў у Менск і перадаваў іх у аддзел прапаганды генэральнага камісарыяту. Там іх накіроўвалі ў паасобныя акруговыя камісарыяты цывільнай зоны Беларусі. У Менску працавалі, між іншым, Бузак, Ганько, Гарэлік, Лешчанка, Стэльмах, Шаўцоў, у Баранавічах — Бядрыцкі, Гарбуноў, Шпак, у Слуцку — Манькоў, у Лідзе — Бабкоў, у Наваградку — Каляда. Прапагандысты выконвалі загады толькі нямецкіх установаў і не ўключаліся ў сфэру дзейнасьці БНС. Акрамя некалькіх перабежчыкаў да партызанаў, пераважная іх большасьць апраўдала давер свайго настаўніка.

Так сфармавалася апазыцыйная да БНСаўскага кіраўніцтва нацыянал–сацыялістычная групоўка. Кіравалася яна ідэямі Акінчыца, выкладзенымі ў Вустраве і ў яго аб’ёмістым артыкуле “Думкі на часе”, апублікаваным у “Беларускай Газэце” (1943. 28 сакавіка — 11 красавіка), якія можна рэзюмаваць наступным чынам:

— Вайна вядзецца ў імя будучыні ўсяго культурнага сьвету. Ад таго, якая сіла пераможа, залежыць лёс усіх народаў. Вайна вядзецца за перабудову Эўропы на новых палітычных і гаспадарчых падставах. Нам, беларусам, не даводзіцца шкадаваць даваенную Эўропу — нічога ў ёй мы ня мелі і мець не маглі.

— Мы не павінны глядзець на гэтую вайну толькі зь беларускага пункту гледжаньня. Беларуская справа будзе разьвязана на нашу карысьць пасьля таго, як вораг будзе зьнішчаны і ў Эўропе будзе запачаткаваны новы парадак, абапёрты на выключэньні з грамадзкага жыцьця бальшавізму і жыдоўства.

— У гэтым змаганьні няма месца нэўтральнасьці. Той, хто супраць бальшавіцкай камуны, можа знайсьці разнаякія магчымасьці дапамогі фронту. Трэба праводзіць ачышчэньне краю ад бальшавікоў і іх агентаў, выкрываць падрыўныя мэтады іх дзейнасьці, арганізаваць добры тыл для арміі, даць хлеб.

— Сапраўдная народная ўлада павінна быць створана ў выніку грамадзкага пераўзгадаваньня нашага народу пад вызначальным уплывам яснай цьвёрдай ідэалёгіі, адпаведнай вымогам жыцьця ў агульнаэўрапейскім маштабе.

— Трэба разьмежавацца зь людзьмі, якія інакш думаюць і дзейнічаюць на карысьць варожых беларускай справе сілаў. Выкінуць трэба і тых, хто хацеў бы заняць залатую сярэдзінку. У сучасную часіну ім месца няма. Хто ня з намі — той супраць нас. Хто ня хоча актыўна змагацца з бальшавізмам і ягонаю спадчынаю, хто чакае на адпаведнае надвор’е, той вораг. Трэба нарэшце зрабіць канчатковы парадак з тым бальшавіцкім ахвосьцем, якое засталося і якое свой бальшавіцкі глузд сарамліва прыкрывае рознымі фігавымі лісткамі, як, прыкладам, славянафільствам ці нечым іншым, згатаваным у маскоўскай кухні.

— Ёсьць у нас “палітыкі”, якія заклікаюць “ні ў якім выпадку не расьцярушваць нашае ўвагі, не адцягваць яе ад сваіх беларускіх спраў” ды нагадваюць, што “веліч

сучасных падзеяў не павінна зацямняць «маласьці» нашае справы і перашкаджаць у будаваньні нашага заўтра, у зьбіраньні і ўмацаваньні нашых беларускіх сілаў”. Такім “палітыкам” трэба прыгадаць, што лёс беларускай справы залежыць выключна ад лёсу антыбальшавіцкага фронту. Было б вялікім няшчасьцем для беларусаў, калі б у гэтую часіну, калі край разбураны і выбіты з каляіны нармальнага жыцьця, да ўлады над ім дарвалася нейкая кампанія людзей, якія нічога за сабой не маюць, акрамя хваравітых амбіцыяў і прагі ўлады.

На думку Акінчыца, выказаную ў кастрычніку 1942 г. у Баранавічах, для вырашэньня гэтых праблем неабходна стварыць адпаведную палітычную арганізацыю, рэарганізаваць адміністрацыю і замяніць “варожыя элемэнты” пасьлядоўнымі прыхільнікамі нацыянал–сацыялістычнай ідэалёгіі. На такую ідэалёгію павінны абапірацца ўсе беларускія арганізацыі, паліцыя, школьная адукацыя як зыходны пункт пераўзгадаваньня ўсяго грамадзтва[23].

Аднак Кубэ, які па–свойму разыгрываў карту беларускага нацыяналізму, ігнараваў патрабаваньні Акінчыца і не дазваляў газэтам зьмяшчаць ягоную крытыку паводзінаў Ермачэнкі і кіраўніцтва БНС. Затое больш прыхільна ставілася да яе Галоўнае ўпраўленьне дзяржаўнай бясьпекі ў Бэрліне і яго менскія органы. Яны здаўна ставіліся крытычна да палітыкі Кубэ і намагаліся яго скампрамэтаваць як праваднiка нібыта супярэчных інтарэсам Нямеччыны беларускіх нацыянальных ініцыятываў, якія праяўляла кіраўніцтва БНС[24].

Канфлікт паміж кіраўнічымі органамі акупацыйнага праўленьня ўспрымаўся Акінчыцам як доўгачаканы шанец: нарэшце службе бясьпекі спатрэбіліся доказы злачыннай дзейнасьці яго палітычных праціўнікаў. Пад канец 1942 г. ён павёў вострую атаку супраць кіраўніцтва БНС, якое абвінавачваў у бязьдзейнасьці, няздольнасьці, а нават сабатажы такой справы, як актывізацыя грамадзтва ў барацьбе з партызанскім рухам. Крытыкаваліся і панславістычныя тэндэнцыі ў БНСаўскім кіраўніцтве і прапартызанскія сымпатыі яго “левага крыла”, сьведчаньнем чаго меў быць пераход да партызанаў некаторых мясцовых дзяячоў БНС і групаў самааховы[25].

Нямецкая служба бясьпекі карысталася даносамі Акінчыца і яго групы і ня раз на іх спасылалася ў сваіх рапартах. Такім чынам, яны паўплывалі на фабрыкаваньне ў сьнежні 1942 — студзені 1943 г. справы Ермачэнкі, які абвінавачваўся ў найбольшым злачынстве — дзяржаўнай здрадзе. Дзякуючы заступніцтву Кубэ Ермачэнка пазьбег сьмерці і пакуль што заставаўся ў Менску. Затое ў атмасфэры паліцэйскіх ганеньняў былі рэпрэсаваны многія дзеячы БНС у Менску і на правінцыі, а ў іх ліку ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, арыштаваны і забіты 24 сьнежня 1942 г.[26].

На пачатку 1943 г. пазыцыя БНС моцна паслабела, і Акінчыц, які цешыўся прызнаньнем Готбэрга, Штраўха і высокіх функцыянэраў СС і паліцыі ў Бэрліне, быў упэўнены ў хуткай перамозе — якраз у тым часе ЭСЭСаўскае ведамства здабывала штораз большы ўплыў на дзейнасьць Розэнбэрга і цывільнага праўленьня на ўсходзе. Аднак Акінчыц усё яшчэ ня ведаў, як будзе вырашаны лёс Ермачэнкі. 11 лютага 1943 г. блізкі супрацоўнік Акінчыца Генрык Барановіч пісаў Міхасю Ганьку, што ў найбліжэйшым часе ён (Барановіч) з сваім шэфам і чарговай групай прапагандыстаў прыедуць у Менск, і ён так настаўляў Ганька супраць Ермачэнкі і яго каманды:

---

[23] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 199.

[24] Шырэй пра канфлікт Кубэ — СС гл. у працы Ю.Туронка “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”. С. 510—677 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

[25] Акінчыц Ф. Не забываць пра галоўнае // Беларуская Газэта. 1943. 4 сакавіка; таксама *Meldungen* Nr 38, 22.01.1943, ААН, александрыйскія мікрафільмы, T—175, ролік 236/2725415.

[26] Ярмусик Э.С. Католический костёл в Белоруссии в годы Второй мировой войны (1939—1945). Гродно, 2002. С. 229—231.

Аб тым, што датычыць клікі Ермачэнкі (створанай толькі ў Беларусі), будзем з Вамі гаварыць у Менску. Сёньня магу Вам сказаць толькі адно: Вы будзеце зьдзіўлены рознаму — ёсьць на тое падстава. Усё ж Вы ня можаце ўявіць, што людзі, якія імкнуцца паказаць сябе зьнешне надзейнымі і ляяльнымі да Нямеччыны і беларускай справы, якія сумесна маршыруюць і скандуюць, вельмі часта зьяўляюцца найменш паўнацэннымі, ілгунамі, вераломнымі і агіднымі суб'ектамі, нягоднікамі, нават сьвіньнямі. Узьнікае пытаньне, чаму і як доўга такія анучы будуць засьмечваць сьвятую зямлю. <...> Калі мы прыедзем у Менск, узарвецца бомба — у гэтым некаторыя паночкі могуць не сумнявацца. Я абсалютна ўпэўнены, што ваўкоў у авечай скуры паразяць прызначаныя ім асколкі[27].

Невядома, ці словы Барановіча пра бомбу і асколкі абазначалі плянаваны групай Акінчыца замах на жыцьцё Ермачэнкі, ці нейкую акцыю, якая давяла б яго да палітычнай гібелі. Так ці інакш Акінчыц і яго гадунцы рыхтавалі тады канчатковую расправу з кіраўніцтвам БНС. Аднак справы разьвіліся інакш. Ліст Барановіча да Ганька наўрад ці дайшоў да адрасата — яго нечакана перанялі службы генэральнага камісарыяту і перадалі Кубэ. 23 лютага 1943 г. ён з абурэньнем пісаў Розэнбэргу пра паводзіны Барановіча і надалей бараніў Ермачэнку як надзейнага супрацоўніка[28].

Дзякуючы гэтай выпадковасьці пляны Акінчыцавай групы праваліліся. У прыватнасьці, яны сталі вядомыя Ермачэнку, які з мэтай самаабароны арганізаваў зьнішчэньне свайго праціўніка, у чым галоўную ролю адыграў журналіст "Беларускай Газэты" Алесь Матусевіч. Тым часам нішто не трывожыла Акінчыца ў Менску, ніякія падазрэньні ў яго не ўзьнікалі. Напярэдадні замаху Матусевіч запрасіў Акінчыца, Казлоўскага і Адамовіча на сустрэчу ў сваёй кватэры, падчас якой нібыта адкрыта абмяркоўвалі тагачаснае палітычнае становішча, узгаднялі тэматыку публікацыяў Акінчыца ў "Беларускай Газэце". Тады быццам была зроблена Матусевічам няўдалая спроба атруціць Акінчыца[29].

На наступны дзень, 5 сакавіка 1943 г., раніцай Матусевіч прыйшоў на кватэру Казлоўскага, у якога начаваў Акінчыц, забіў яго стрэлам зь пісталета і ўцёк да партызанаў. Пахавалі яго на Вайсковых могілках у Менску чамусьці толькі 15 сакавіка — на дзясяты дзень ад сьмерці. Паводле Адамовіча, аддзел прэсы генэральнага камісарыяту забараніў менскім газэтам друкаваць паведамленьні пра замах і пахаваньне, з гэтай прычыны не прайшоў і нэкралёг, які напісаў Казлоўскі для "Беларускай Газэты". Выглядае на тое, што ўлады не хацелі высьвятляць прычыну замаху, а спроба сьпісаць яго на "маскоўскіх агентаў" была б для сучасьнікаў занадта неверагоднай.

На заканчэньне працытуем дзьве супярэчлівыя ацэнкі нашых суродзічаў з Аўстраліі, безь якіх палітычны партрэт Акінчыца быў бы няпоўны і якія, магчыма, паспрыяюць пошукам адказу на пытаньне, кім у сапраўднасьці быў гэты чалавек.

Язэп Малецкі. "Пад знакам Пагоні" (Таронта, 1976. С. 48):

З даручэньня гітлераўцаў Акінчыц з савецкіх палонных выдзяляў беларусаў у адумысловыя перашкольныя табары пад Бэрлінам, дзе рыхтаваліся кадры людзей, сьлепа пакорных нацысцкай Нямеччыне, фюрэру і нацысцкім інтарэсам. <...> Гэта быў фанатык, які верыў, што нізкай услужлівасьцю гітлераўцам здабудзе ў іх давер і што за гэтым ідзе — уладу ў Беларусі. Ён нават зьбіраўся ў час вайны рабіць "чыстку" ў радах беларускіх актыўных дзеячоў, што ўзяліся за адбудову краю ў жудасных ваенных умовах. <...> Калі я сачыў дзейнасьць Акінчыца, я ня мог зразумець, дзе ў ім канчаецца варожы беларускай справе авантурыст, а дзе пачынаецца псыхапат.

---

[27] Ліст Барановіча да Ганька ад 11.02.1943, ААН, александрыйскія мікрафільмы, Т—454, ролік 39/1055.

[28] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 23.02.1943, тамсама, Т—454, ролік 39/1053.

[29] Інфармацыя Антона Адамовіча аўтару ад 18.04.1985.

Сымон Шаўцоў. Мая адысэя (Вільня. 1999. С. 41—42):

Памятаю, як ён (Акінчыц. — *Ю.Т.*) навучаў нас у гэтым лягеры:

Немцы нам не калегі, але мы ня маем з кім ісьці. Мы пайшлі б з самім чортам, каб толькі здабыць нашую незалежнасьць. Немцы паляць вёскі зь людзьмі, дзяцьмі, старымі. Партызаны забіваюць немца, падкідваюць бліз вёскі, а немцы паляць тую вёску як партызанскую. І немцы, і партызаны забіваюць нашую інтэлігенцыю... На вас уся надзея. Я за вас залажыў сваю галаву. Як хто з вас уцячэ да партызанаў, усіх нас пастраляюць немцы. Трымайцеся адзін аднаго, каб вас не спакусілі, не справакавалі. Будзьце мудрыя, як біблейны Салямон, хітрыя, як зьмеі... Наша бяда, што лёс Радзімы лучыць нас зь Нямеччынай. Так ужо было ў 1918 годзе, калі пад акупацыяй кайзэраўскіх войскаў паўстала БНР. Ніхто нам незалежнасьць ня дасьць, як самі яе не заваюем. Нам няма выйсьця. Францыя, Англія ды Амэрыка ў альянсе з СССР. Час пакажа, з кім нам ісьці. А цяпер трэба ратаваць наш народ ад генацыду як ад бальшавіцкага, гэтак і нямецкага... Вам выпала цяжкая праца. На вас будуць паляваць і бальшавікі, і немцы. Ні адным, ні другім нашыя ідэі і мэты не пасуюць. Будзьце абачлівыя!

Так настаўляў нас Фабіян Акінчыц.

Калі погляды накшталт ацэнкі Малецкага даволі пашыраныя ў эмігранцкай літаратуры і часткова пацьвярджаюцца дакумэнтацыяй, то выказваньне Шаўцова зьяўляецца рэдкім і амаль неверагодным. Усё ж ігнараваць яго нельга, перш за ўсё з увагі на спэцыфіку таго часу, калі афіцыйнымі дэклярацыямі ня раз прыкрываліся іншыя намеры і дзеяньні.

Бадай адзіным несумненным зьдзяйсьненьнем Акінчыца была падрыхтоўка прапагандыстаў, якія неўзабаве стварылі і ўзначалілі Саюз беларускай моладзі. Янка Жамойцін, які ўпершыню сустрэўся зь імі на СБМаўскіх курсах у Менску, пісаў:

Курсантамі былі пераважна крыху старэйшыя за мяне хлопцы з Усходняй Беларусі. Пасьля аказалася, што гэта былыя афіцэры Чырвонай Арміі, якія папалі ў палон і ўжо адбылі нейкую падрыхтоўку. Цяпер накіравалі іх арганізаваць Саюз беларускай моладзі. Апрача іх было і некалькі “заходнікаў”: з Глыбокага, Вялейкі, Ганцавіч, хіба з Баранавіч і я — з Наваградку. Былыя афіцэры ставіліся да нас быццам з апякунствам, а мы да іх зь недаверам, як да нямецкіх стаўленікаў. Курсы працягваліся нешта два тыдні, і ў канцы пачатковая прадузятасьць ужо не заўважалася. Як бы тыя былыя ваякі не маскіраваліся, стала ясным, што ня немцам служыць яны прыехалі. Не заставалася ні трохі сумненьня, што, незалежна ад такіх ці іншых поглядаў, завэрбавала іх любоў да Радзімы, настальгія па культуры, у якой вырасьлі. <...> Акруговымі кіраўнікамі пасьля заканчэньня курсаў былі назначаны амаль выключна хлопцы з прывезенай зь Нямеччыны групы[30].

Нягледзячы на выкарыстоўваньне моладзі для ваенна–эканамічных патрэбаў Нямеччыны, СБМ здолеў выхаваць тысячы юнакоў і юначак у духу нацыянальнай актыўнасьці і адданасьці сваёй Бацькаўшчыне. Такі быў вынік дзейнасьці асуджаных Малецкім Акінчыцавых гадунцоў.

*Друкуецца паводле:* Беларускі гістарычны агляд. 2003. Сьнежань. Т. 10. Сш. 1—2 (18—19).

[30] Жамойцін Я. З пережытага // Лёс аднаго пакалення. Беласток, 1996. С. 88—89. — *Ю.Т.*
Тое ж гл. у кн.: Беларускія пісьменнікі Польшчы. Мінск, 2000. С. 32. — *А.С.*

# Сучасны Скарына

Як запісана ў вайсковым пасьведчаньні 1934 г. аб пераводзе Язэпа Найдзюка ў рэзэрву, якое я маю, ён нарадзіўся 12 траўня 1909 г. у вёсцы Бойдаты ў Цярэшкаўскай воласьці Ваўкавыскага павету ў рыма–каталіцкай сям'і Цыпрыяна і Людвікі Найдзюкоў. Аднак апошнім часам сустракаюцца і іншыя зьвесткі. Гэтак, паводле "Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі" (Том 5. Мінск, 1999) ён нарадзіўся 15 траўня ў вёсцы Рэпля ў Ваўкавыскім раёне. Такую ж дату падае таксама Пётар Мільхерт, дадаючы, што яго бацькамі былі Ян і Ядвіга з Малахоўскіх (Goniec Kujawski[1], 1996. Ліпень—жнівень). Яшчэ адзін варыянт даты нараджэньня (29 красавіка 1909) і прозьвішча маці (Ядвіга зь Ціханчыкаў) зьмешчаны і пад маім прозьвішчам у выдадзеным Інстытутам славістыкі ПАН біяграфічна–бібліяграфічным слоўніку "Беларускі хрысьціянскі рух XX стагодзьдзя" (Варшава, 2003)[2]. Не выключаю, што падобных разьбежнасьцяў можа быць больш.

Падаецца, што найбольш праўдападобныя — гэта базавыя зьвесткі пра сваю асобу, пададзеныя вайсковым уладам самім Язэпам Найдзюком у трыццатыя гады, калі ён яшчэ ня быў вымушаны іх фальшаваць, як у 1944 г.

У сярэднюю школу Язэп хадзіў у Бойдатах і блізкіх Вярэйках, пасьля сканчэньня якой у 1923 г. ён паступіў у настаўніцкую сэмінарыю ў Ваўкавыску. Аднак праз два гады з прычыны цяжкай фінансавай сытуацыі сям'і ён быў вымушаны перапыніць навучаньне ў сэмінарыі. Увосень 1925 г., разьлічваючы знайсьці працу і ўмовы для інтэлектуальнага разьвіцьця, ён скіраваўся ў Вільню, дзе пасьля колькімесячнай працы ў гарадзкім транспарце далучыўся да беларускага нацыянальнага руху.

Можна меркаваць, што гэты нацыянальны выбар Язэпа ў пэўнай меры быў справай выпадку. Бо з бацькоўскага дому ён ня вынес пачуцьця акрэсьленай нацыянальнай сьвядомасьці. Тады, а часам нават і сёньня, галоўным чыньнікам нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларускага народу была прыналежнасьць да Праваслаўнай ці Каталіцкай царквы. Дзеля гэтага, не зважаючы на гістарычныя і моўныя чыньнікі, праваслаўных, як правіла, вызначалі як "рускіх", а каталікоў — як "палякаў". Сапраўдная ў нашым разуменьні нацыянальная сьвядомасьць Язэпа Найдзюка сфармавалася ў Вільні і была пытаньнем выбару, на які паўплывала найперш новае асяродзьдзе, у якім яму давялося дзеяць.

Так склалася, што на пачатку ўладкавацца ў Вільні Язэпу дапамог яго сваяк Фабіян Ярэміч — беларускі палітычны дзяяч і дэпутат сойму. Ён жа і пазнаёміў Язэпа з ксяндзом Адамам Станкевічам — ідэолягам і вядучым дзяячом Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, які зрабіў вызначальны ўплыў на фармаваньне асобы 17–гадовага хлопца. Абодва дзеячы прадстаўлялі беларускі нацыянальны рух, процістаялі растучаму ўплыву пракамуністычнай Беларускай сялянска–работніцкай грамады і шукалі супрацоўнікаў.

Ужо вясной 1926 г. Язэп пачаў абслугоўваць экспэдыцыю выдаваных імі "Крыніцы" і "Сялянскай Нівы"[3], апроч таго, ён удзельнічаў у беларускім хоры пры касьцёле сьв. Мікалая, у якім адбываліся набажэнствы для беларусаў–каталікоў. Гэты ўдзел быў эфэк-

---

[1] "Goniec Kujawski" — культурніцкі штоквартальнік, які выходзіць у горадзе Інаўроцлаве з 1996 г. — *А.П.*

[2] Маецца на ўвазе даведнік "Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. Słownik biograficzno–bibliograficzny", выдадзены Ю. Туронкам сумесна зь Юр'ем Гарбінскім. — *А.П.*

[3] Газэта "Biełaruskaja Krynica" (назву "Krynica" яна насіла да 1925 г.) была органам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі Адама Станкевіча, а "Сялянская Ніва" — Беларускага сялянскага саюзу Фабіяна Ярэміча. — *А.П.*

тыўнай школай нацыянальнай сьвядомасьці, бо можна было навочна пераканацца, што каталіцызм быў ня толькі “польскай верай”, як традыцыйна лічылася сярод простага люду, у тым ліку і ў сям’і Найдзюкоў. Вось жа, пад уплывам палітычных і царкоўных асяродзьдзяў Язэп хутка прыняў беларускую нацыянальную сьвядомасьць і стаў яе гарачым прапагандыстам.

Адначасна з экспэдыцыяй часопісаў ён удзельнічаў у падрыхтоўчых працах для стварэньня беларускай друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні, якія ладзіліся Фабіянам Ярэмічам і ксяндзамі Адамам Станкевічам, Вінцэнтам Гадлеўскім і Андрэем Цікотам. У траўні 1926 г. друкарня распачала дзейнасьць, а Язэп Найдзюк стаў яе работнікам. Ён старанна вучыўся друкарскай справы і неўзабаве стаў тэхнічным кіраўніком друкарні, працуючы пад кіраўніцтвам ксяндза Адама Станкевіча. Вечарамі ж ён працягваў навучаньне на курсах сярэдняй адукацыі і ў якасьці вольнага слухача на факультэце гісторыі ўнівэрсытэту Сьцяпана Батуры[4].

Друкарня дзейнічала на камэрцыйнай аснове, рэалізоўвала замовы розных беларускіх, польскіх і расейскіх выдаўцоў, аднак яе асноўнай задачай было абслугоўваньне выдавецкіх патрэбаў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Тут у 1926—1940 гадох друкаваліся амаль усе выдаваныя ў Вільні беларускія часопісы, было таксама надрукавана больш за 160 кніжак на беларускай мове, г.зн. амаль палова ад усёй іх колькасьці, выпушчанай у міжваеннай Польшчы. Гэтыя паказьнікі красамоўна адлюстроўваюць грамадзка–палітычнае значэньне кіраванай Язэпам Найдзюком установы.

Пры гэтым яму даводзілася даваць рады шматлікім цяжкасьцям. Друкарню ніхто не спансаваў, яна зарабляла сродкі на сваю працу ўва ўмовах вострай канкурэнцыі. Гэта абумоўлівала сьціплыя заробкі работнікаў, што, аднак, кампэнсавала іх ахвярнасьць, якая вынікала з разуменьня справы, дзеля якой яны працуюць. Фінансавую сытуацыю друкарні і выдаўцоў пагаршалі частыя канфіскацыі, перадусім часопісаў, судовыя працэсы супраць кіраўніка і грашовыя штрафы.

Праца Язэпа Найдзюка ў друкарні імя Скарыны, якая доўжылася 15 гадоў, стварала варункі для частых кантактаў зь пісьменьнікамі, навукоўцамі, сьвятарамі і іншымі прадстаўнікамі творчых асяродкаў у Вільні. Іх плёнам досыць хутка стала выдавецкая супраца, выразам якой было стварэньне месячніка “Шлях Моладзі”. Часопіс рэгулярна выходзіў з сакавіка 1929 да верасьня 1939 г., г.зн. больш за дзесяць гадоў. Сярод пераважна эфэмэрных віленскіх беларускіх часопісаў міжваеннай пары, якія ўвесь час змагаліся зь фінансавымі цяжкасьцямі, гэта было рэдкай зьявай.

Заснавальнікамі і выдаўцамі “Шляху Моладзі” былі маладыя друкары: Ян Багдановіч[5], Язэп Найдзюк і Альфонс Шутовіч, а таксама Ізабэла Тумаш і Ўладзіслаў Тарасевіч, якія займаліся яго адміністрацыяй і экспэдыцыяй. Рэдактарам месячніка спачатку быў Мар’ян Пецюкевіч[6], а ад 1932 г. — Язэп Найдзюк.

“Шлях Моладзі” быў незалежным зь фінансавага гледзішча часопісам, што ў вялікай меры спрычынілася да яго адноснай даўгавечнасьці. Выдаўцы бясплатна друкавалі яго ў сваёй друкарні, а выдаткі на паперу і паштовыя паслугі пакрываліся даходамі ад падпіскі. Рэдакцыя не плаціла ганарараў, але, нягледзячы на гэта, кола супрацоўнікаў стала павялічвалася, іх колькасьць у канцы трыццатых гадоў значна перавышала сотню. Усё гэта дазволіла рэдакцыі зь верасьня 1937 г. павялічыць пэрыядычнасьць выхаду часопіса ад разу на месяц да разу на два тыдні.

[4] Імя польскага караля і вялікага князя літоўскага Сьцяпана Батуры (Стэфана Баторыя) насіў у міжваенны пэрыяд Віленскі ўнівэрсытэт. — *А.П.*

[5] Багдановіч Янка (1906—1990) — беларускі нацыянальны дзяяч, пісьменьнік і публіцыст, адзін з выдаўцоў часопіса “Шлях Моладзі” (1929—1938 г.). — *А.П.*

[6] Пецюкевіч Мар’ян (1904—1983) — беларускі вучоны–этнограф і грамадзкі дзяяч, у міжваенны пэрыяд быў рэдактарам віленскага часопіса “Шлях Моладзі”. — *А.П.*

Фармальна “Шлях Моладзі” ня быў падпарадкаваны ніводнай палітычнай партыі і таму быў незалежны таксама і ў рэдакцыйнай палітыцы, аднак фактычна ён пасьлядоўна стаяў на грунце хрысьціянска–дэмакратычнай ідэалёгіі. Часопіс прапагандаваў ідэю незалежнасьці Беларусі, абуджаў нацыянальную сьвядомасьць сярод моладзі, шырыў асьвету і культуру, папулярызаваў айчынную гісторыю і мастацкую літаратуру, інфармаваў аб падзеях у краіне і за мяжой.

У трыццатых гадох “Шлях Моладзі” стаў найбольш папулярным часопісам Заходняй Беларусі. Яго бачыны былі адкрытыя для аўтараў разнастайнай ідэалягічнай арыентацыі — сьвятароў, дзяячоў сялянскіх арганізацыяў, сацыялістаў, хадэкаў і камуністаў, калі тыя выражалі клопат пра лепшую будучыню беларускай нацыі.

Апроч шматлікіх артыкулаў рэдактара Язэпа Найдзюка, асаблівае значэньне мела хроніка грамадзка–палітычнага і культурнага жыцьця беларусаў у Польшчы і за мяжой, якую ён рупліва вёў. Яна й да сёньня ёсьць каштоўнай крыніцай інфармацыі для зацікаўленых гісторыкаў.

Адначасна з працай у друкарні і рэдакцыі “Шляху Моладзі” Язэп Найдзюк чынна ўдзельнічаў у дзейнасьці Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, супрацоўнічаў зь яе друкаваным органам “Biełaruskaja Krynica”, апекаваўся кнігарняй “Пагоня”, арганізоўваў культурныя і рэлігійныя імпрэзы, у тым ліку пілігрымкі да Кальварыі пад Вільняй. Ён быў сьведкам гучнага канфлікту ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага з БХД[7], які прывёў да яе ператварэньня ў Беларускае народнае аб’яднаньне. На арганізацыйным зьезьдзе БНА ў студзені 1936 г. ён быў выбраны сакратаром прэзыдыюму яго цэнтральнага камітэту.

Зь цягам часу зьявіліся новыя цяжкасьці. Асабліва адчувальна на дзейнасьць выдавецтва паўплываў пераход польскіх уладаў да больш жорсткай нацыянальнай палітыкі ў сярэдзіне трыццатых гадоў. У 1936 годзе і наступных гадох у Вільні былі зачыненыя найважнейшыя беларускія грамадзка–культурныя арганізацыі і зьліквідаваная іх рэгіянальная сетка, што значна ўскладніла распаўсюджаньне кніжак і часопісаў. У 1938 г. пачаліся дэпартацыі зь Вільні беларускіх дзяячоў, у тым ліку ксяндза Адама Станкевіча[8]. Летам 1939 г. Язэп Найдзюк быў высланы ў лягер у Бярозе Картускай[9]. Пасьля прыходу Чырвонай Арміі ў верасьні 1939 г. ён вярнуўся ў Вільню і працягваў сваю ранейшую дзейнасьць, гэтым разам у варунках Літоўскай рэспублікі[10]. У канцы 1939 г. і ў першай палове 1940 г. ён аднавіў друк хадэцкай “Крыніцы”, выдаў некалькі каштоўных кніжак, сярод іх сваю “Беларусь учора і сяньня”. Ад чэрвеня 1940 г., пасьля анэксіі Літвы СССР, друкарня дзейнічала яшчэ колькі месяцаў, аднак была нацыяналізаваная і ўжо не друкавала беларускіх кніжак і часопісаў. Урэшце, увесну 1941 г. яе ліквідавалі.

---

[7] Канфлікт ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага з БХД быў вынікам яго нязгоды з магчымым уваходам партыі ў Народны антыфашысцкі фронт пад гегемоніяй камуністаў. У выніку Гадлеўскі адышоў ад БХД і разам з Вацлавам Пануцэвічам, Міколам Шкялёнкам і Лявонам Вітан–Дубейкаўскім стаў выдаваць газэту “Беларускі Фронт”. — *А.П.*

[8] Адам Станкевіч разам зь іншымі беларускімі дзяячамі — Уладзіславам Талочкам і Адольфам Клімовічам — быў высланы зь Вільні ў сьнежні 1938 г. Фармальнай падставай для гэтага стала неабходнасьць высяленьня “ненадзейных” элемэнтаў з памежнай зоны згодна з дэкрэтам прэзыдэнта Польшчы “Аб межах дзяржавы”. — *А.П.* В. Гадлеўскі не высяляўся палякамі, а ў верасьні 1939 г. уцёк зь Вільні ў Каўнас, ратуючыся ад бальшавікоў. — *Ю.Т.*

[9] Канцэнтрацыйны лягер у Бярозе Картускай быў створаны 12 ліпеня 1934 г. пасьля забойства ўкраінскімі нацыяналістамі міністра ўнутраных справаў Польшчы Браніслава Перацкага. Паводле адпаведнага распараджэньня, ягонымі вязьнямі рабіліся асобы, “дзейнасьць або паводзіны якіх даюць падставу меркаваць, што зь іх боку ёсьць пагроза парушэньня бясьпекі, спакою або грамадзкага парадку”. Лягер вылучаўся сярод іншых польскіх турмаў сваімі цяжкімі ўмовамі ўтрыманьня вязьняў. Дзейнічаў да 1939 г. — *А.П.*

[10] Вільня разам з ваколіцамі 8 кастрычніка 1939 г. была перададзеная савецкімі ўладамі Літве. — *А.П.*

У канцы чэрвеня 1941 г. у Вільню ўвайшлі нямецкія войскі. Неўзабаве акупацыйныя ўлады дазволілі аднаўленьне дзейнасьці Беларускага нацыянальнага камітэту, зачыненага ў 1938 г. віленскім ваяводам. У ліпені на арганізацыйным сходзе была выбрана ўправа Камітэту, а Язэп Найдзюк стаў яе сакратаром. Аднак ён не зьбіраўся заставацца ў Вільні — яго больш вабіў Менск, дзе магчымасьці патрыятычнай працы падаваліся лепшымі. Таму ён выкарыстаў сваю пасаду для перавозу ў Менск вялікай колькасьці кніжак, вынятых з продажу савецкімі ўладамі, і ўжо летам 1941 г. арганізаваў там кнігарню.

Увосень 1941 г. ён распачаў працу ў школьным інспэктараце ў Менску. Спачатку яго галоўнай задачай было выданьне часопіса “Беларуская Школа”[11], які меў кампэнсаваць нястачу дазволеных акупацыйнымі ўладамі школьных падручнікаў.

Адначасна ён выдаў больш за дзясятак зацьверджаных інспэктаратам праграмаў навучаньня, а таксама катэхізіс і малітаўнікі, перадрукаваныя з даваенных віленскіх выданьняў. Яны былі надзвычай патрэбныя ў працы беларускага каталіцкага душпастырства, якое адраджалася ў Менску.

У канцы 1942 г. у Менску было створана Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі. Фактычным кіраўніком выдавецтва быў Язэп Найдзюк, які працаваў пад наглядам нямецкага чыноўніка Ёзафа Сівіцы. Хаця асноўнай задачай выдавецтва было выданьне літаратуры для патрэбаў школьніцтва, тэматычны абсяг яго дзейнасьці быў досыць шырокі. Апроч школьных падручнікаў, яно выдавала таксама мастацкую, навукова–папулярную, рэлігійную літаратуру, сьпеўнікі і іншыя кніжкі.

У ваенных умовах гэта была нялёгкая праца. Моцна адчувалася адсутнасьць дасьведчаных супрацоўнікаў, нястача паперы, нямецкая цэнзура, сталыя клопаты зь перагружанай менскай друкарняй, зьлепленай зь некалькіх часткова зьнішчаных паліграфічных фабрык. Таму Язэп Найдзюк не перабольшваў, калі пісаў у траўні 1943 г. у менскай газэце, што “ў гэтых умовах кожная новая беларуская кніжка цешыць ужо самім фактам яе выхаду”. Вось жа, да чэрвеня 1944 г., г.зн. да канца акупацыі, выдавецтва здолела выдаць толькі 24 кніжкі.

Сярод іх нашай увагі заслугоўвае выдадзеная ў сакавіку 1944 г. кніжка Язэпа Найдзюка “Беларусь учора і сяньня”. Яна не была падручнікам для сярэдніх школаў, але мела характар навукова–папулярнай працы і служыла мэтам нацыянальнай адукацыі інтэлігенцыі і моладзі настаўніцкіх сэмінарыяў. Кніжка досыць значнага аб’ёму (больш за 300 старонак) узьнікла ня хутка — аўтар працаваў над ёй яшчэ ў Вільні, дзе яна выйшла ў 1940 г., а ў 1941—1942 гадох падрыхтаваў новы яе варыянт, друкаваны часткамі ў менскай газэце “Голас Вёскі”. Аднак нягледзячы на ідэнтычную назву, гэта не было другое, пашыранае выданьне, бо аб’ём выдадзенай у Менску кніжкі быў у пяць разоў большы за аб’ём віленскага выданьня. Па сутнасьці гэта была цалкам новая праца, якая цешылася вялікай папулярнасьцю ў Беларусі і на эміграцыі. У 1993 г. яе зноў выдалі ў Менску.

Выдавецкая дзейнасьць, без сумневу, была галоўным элемэнтам грамадзка–культурнай філязофіі Язэпа Найдзюка, яго жыцьцёвай жарсьцю. Яго вабіла патрыятычная мэта — абуджэньне і паглыбленьне нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, клопат пра далучэньне іх да працы на карысьць нацыянальнага адраджэньня краіны. Ён цешыўся з выданьня кожнай кніжкі, пра што ён скрупулёзна паведамляў у віленскіх і менскіх газэтах.

У канцы чэрвеня 1944 г., за колькі дзён да ўваходу ў Менск Чырвонай Арміі, Язэп Найдзюк пакінуў Беларусь. Ён ведаў, што яго выдавецкая дзейнасьць была несумяш-

---

[11] Пэдагагічны часопіс Інспэктарыяту беларускіх школаў пры генэральным камісару Беларусі, які выдаваўся ў студзені — сьнежні 1942 г. у Менску. Адказным за ягоны зьмест быў нямецкі чыноўнік Ё. Сівіца. — *А.П.*

чальная з бальшавіцкай палітыкай вынішчэньня беларускасьці. За гэтую дзейнасьць яго чакала сьмерць або кананьне ў сібірскіх лягерох. Дбаючы пра ўласную бясьпеку, па вайне ён распачаў новае жыцьцё. Час ад часу ён пісаў пад рознымі псэўданімамі ў беларускія эміграцыйныя часопісы, а ў апошнія гады жыцьця падрыхтаваў успаміны аб віленскай друкарні (выдадзеныя адно ў 1991 г. у Лёндане)[12] і папулярны падручнік гісторыі Беларусі для моладзі, які дагэтуль застаецца ў рукапісе.

Кантакт зь Язэпам Найдзюком–Александровічам я ўсталяваў праз пасярэдніцтва Мар'яна Пецюкевіча з Торуні[13]. Першая наша сустрэча адбылася ў сакавіку 1979 г. у Варшаве. Я тады зьбіраў матэрыял для кніжкі аб нямецкай акупацыі Беларусі і разьлічваў атрымаць інфармацыі зь яго асабістага досьведу, на што ў той час адважваўся ня кожны. Нашую размову сп. Язэп пачаў з таго, што ў дваццатых гадох ён ведаў маіх будучых бацькоў, сябраваў і супрацоўнічаў зь імі. Ён цалкам давяраў мне і на працягу некалькіх гадоў даваў вычарпальныя адказы на мае пытаньні. Гэтак у 1979—1983 гадох паўстала і захавалася вялікая калекцыя яго лістоў–успамінаў аб падзеях міжваеннай пары і нямецкай акупацыі, зь якіх я толькі частку выкарыстаў у сваіх працах.

*Пераклад зроблены паводле:* Czasopis. 2004. № 2.

---

[12] Успаміны Язэпа Найдзюка "Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926—1940)" былі выдадзеныя пад псэўданімам Станіслаў Цыпрыяновіч у выдавецтве беларускага лёнданскага часопіса "Божым Шляхам". — *А.П.*

[13] Мар'ян Пецюкевіч пасяліўся ў Торуні ў 1957 г., пасьля адбыцьця сасланьня ў Сібіры (1949—1952 г.) і зьняволеньня ў варкуцінскім лягеры (1953—1956 г.). Да 1970 г. працаваў у этнаграфічным музэі г. Торуні. — *А.П.*

## <u>*Частка II. Канфэсіі*</u>

# Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы

Пасьля дзесяцігодзьдзяў маўчаньня апошнім часам польская прэса выказвае павышанае зацікаўленьне пытаньнем каталіцызму ў Беларусі. Як правіла, гэтае зацікаўленьне мае палітычны падтэкст, паколькі адлюстроўвае традыцыйны прыём польскай усходняй палітыкі, згодна зь якім кожны беларускі каталік — гэта паляк. Таму робіцца многае дзеля ўмацаваньня і пашырэньня каталіцызму ў Беларусі, ня ўвогуле, але як патэнцыйнай экспазытуры польскіх інтарэсаў. Аб гэтым сьведчыць, у прыватнасьці, адмоўнае стаўленьне да беларусізацыі Каталіцкай царквы ня толькі мясцовымі ксяндзамі, але і іх магутнымі апекунамі — каталіцкай герархіяй у Польшчы.

Акрамя дзеяньняў канфэсійнага характару, такіх, як засылка літаратуры на польскай мове, імкненьне абсадзіць беларускія парафіі польскімі ксяндзамі і т.п., вялікае значэньне мае "статыстычная прапаганда", якая імкнецца максымалізаваць маштаб каталіцкай праблемы ў Беларусі і такім чынам абгрунтаваць згаданыя дзеяньні. Таму адкідаюцца як сфальшаваныя вынікі перапісу насельніцтва 1979 году, паводле якіх у БССР пражывала 403 тысячы палякаў, і выказваюцца погляды, што "ў сапраўднасьці" іх лік у некалькі разоў большы.

Такім чынам падаграюцца ў польскім грамадзтве настроі, якія фактычна служаць рэваншысцкім мэтам: "Глядзіце, колькі там нашых, асабліва на Гарадзеншчыне!" Выказваюцца думкі аб польскіх аўтаномных раёнах ня толькі ў Літве, але і ў Беларусі, а нават публікуюцца карты, на якіх паказваецца Гарадзеншчына як польскі калідор да польскай Вільні. Праўда, на гэтым шляху сустракаюцца цяжкасьці, як, напрыклад, мова беларускіх "палякаў", зь якіх у 1979 годзе толькі 7,9% лічыла роднай польскую мову... Аднак і ў гэтым выпадку знаходзіцца выйсьце: вось жа, пішуць некаторыя, гэтыя палякі проста забылі сваю спрадвечную польскую мову і абеларушчыліся ці абруселі. Адсюль узьнікае праграмнае патрабаваньне аб неабходнасьці вярнуць "суродзічам" страчаную мову, што павінны выканаць перш за ўсё школа і касьцёл.

У гэтай сувязі пастараемся разгледзець статыстычны аспэкт дадзенага пытаньня, канкрэтна — колькасьць каталікоў на тэрыторыі Беларускай ССР як зыходны пункт для ацэнкі маштабу каталіцкай праблемы. Прычым заўважым, што дакладная ацэнка сёньня амаль немагчымая, паколькі апошні перапіс насельніцтва з улікам веравызнаньняў на тэрыторыі Беларусі праводзіўся толькі ў 1897 годзе, г.зн. амаль сто гадоў таму. Праўда, па заходніх абласьцях рэспублікі, якія ў міжваенны пэрыяд знаходзіліся ў межах польскай дзяржавы, такія дадзеныя маюцца за 1931 год, аднак яны не характарызуюць становішча ўва ўсёй БССР. Адначасова неабходна заўважыць, што, пачынаючы зь першай сусьветнай вайны, у Беларусі адбыліся значныя дэмаграфічныя перамены, якія грунтоўна ператасавалі канфэсійную структуру яе насельніцтва.

У 1958 г., бадай упершыню пасьля вайны, аб колькасьці каталікоў выказаўся менскі праваслаўны мітрапаліт Піцірым[1], паводле якога яны складалі трэцюю частку насельніцтва рэспублікі[2]. І хаця гэтая ацэнка была, у чым пераканаемся ніжэй, вынікам фан-

---

[1] Піцірым (Сьвірыдаў) — менскі мітрапаліт Расейскай праваслаўнай царквы ў 1945—1958 г. — *А.П.*

[2] Kolarz W. Religion in the Soviet Union. London, 1962. P. 206.

тазіі мітрапаліта, то ў 1978 г. яе паўтарыў апостальскі візытатар для беларусаў–каталікоў на эміграцыі біскуп Часлаў Сіповіч[3].

У 1980 г. іншую ацэнку прадставіў Павал Ліда[4], які на старонках парыскай "Культуры" зьмясьціў наступную інфармацыю: "Агульны лік каталікоў у сёньняшняй Беларусі ацэньваецца самім міністрам культу ў Менску, Залескім, на каля 2200 тысяч, а можа і болей. Гэты лік ён паведаміў у 1978 г. у прыватнай гутарцы нядаўна памерламу (у жніўні 1979 г.) ксяндзу П. Пупіну з Рубяжэвічаў"[5].

Гэтая інфармацыя з спасылкай на афіцыйную крыніцу зрабіла значную кар'еру. У жніўні 1981 г., выступаючы на міжнародным кангрэсе "Царква ў патрэбе" ў Кёнігштайне (ФРГ), біскуп Сіповіч лёгка адмовіўся ад сваёй ранейшай ацэнкі і паўтарыў дадзеныя Ліды[6]. Такім чынам, пацьверджаная беларускім герархам лічба 2,2 мільёны ўспрымалася як сапраўдная і на працягу гадоў даволі часта выкарыстоўвалася ў польскай каталіцкай пэрыёдыцы. Гэта павінна было выклікаць уражаньне значнага маштабу каталіцкай праблемы ў Беларусі. Зноў, як калісь біскуп Сіповіч, у гэтай справе выказаўся новы апостальскі візытатар для беларусаў–каталікоў на эміграцыі айцец Аляксандар Надсан[7], 23 лістапада 1988 г. ён накіраваў да папы Яна II ліст, у якім ацаніў колькасьць беларускіх каталікоў на прыблізна 25% усяго насельніцтва рэспублікі, г.зн. на звыш 2,5 мільёны, такім чынам павялічваючы ўсе згаданыя польскія ацэнкі.

Гэтая "інфармацыйная" дзейнасьць паўплывала на фармаваньне погляду ватыканскіх колаў. З нагоды назначэньня айца Тадэвуша Кандрусевіча[8] менскім біскупам 25 ліпеня 1989 г. было апублікавана ватыканскае паведамленьне, у якім між іншага адзначалася, што ў Беларусі жывуць 2 мільёны каталікоў[9]. Такім чынам, гэтая лічба набыла афіцыйны характар і ня выклікала сумневаў польскіх, беларускіх і іншых публіцыстаў. На яе падставе айцец Надсан зрабіў цікавы вывад: паколькі ў БССР 2 мільёны каталікоў, а палякаў 500 тысяч, то гэта значыць, што застаецца яшчэ 1,5 мільёны каталікоў іншых нацыянальнасьцяў. Абсалютная большасьць якіх — беларусы[10]. Яшчэ больш шчодрым аказаўся айцец Уладзіслаў Чарняўскі[11], які нядаўна пісаў аб "мільёнах" беларускіх каталікоў, сугеруючы, што можа іх быць ня два, але больш мільёнаў[12].

На фоне імкненьня да максымалізацыі каталіцкага пытаньня варта прыгадаць яшчэ адну ацэнку, прадстаўленую ўладамі БССР і праваслаўным мітрапалітам Філарэтам з

[3] Drujski A. (Sipowicz Cz.). Religiöses Leben in Weissrussland // Der Fels, 1978. № 1.

[4] Ліда Павал — псэўданім Рамана Дзванкоўскага, прафэсара і загадчыка катэдры сацыялёгіі этнічных групаў на факультэце сацыяльных навук Каталіцкага ўнівэрсытэту ў Любліне, аўтара шматлікіх навуковых працаў па гісторыі Каталіцкай царквы ўва Ўсходняй Эўропе. — *А.П.*

[5] Lida P. Polacy, Litwini, Białorusini // Kultura, 1980. №№ 1—2.

[6] S[ipowicz] Cz. Die Katolische Kirche in Weissruthenien. Bericht aus dem internationalen Kongress "Kirche in Not", 6—9. 08.1981. Königstein.

[7] Надсан Аляксандар (нар. 1926) — каталіцкі сьвятар усходняга абраду, мітрафорны протаярэй, магістар тэалёгіі, рэлігійны і грамадзка–культурны дзяяч беларускага замежжа ў Вялікай Брытаніі. З 1986 г. апостальскі візытатар для беларусаў–каталікоў усходняга абраду на эміграцыі. — *А.П.*

[8] Кандрусевіч Тадэвуш (нар. 1946) — у 1989—1991 г. менскі каталіцкі біскуп, з 1991 г. архібіскуп і апостальскі адміністратар для каталікоў лацінскага абраду эўрапейскай часткі Расеі, з 2002 г. — ардынарый Архіяпархіі Маці Божай з цэнтрам у Маскве. — *А.П.*

[9] Весьнік Беларускага Каталіцкага Душпастырства. 1989. № 2(7).

[10] Тамсама.

[11] Чарняўскі Ўладзіслаў (1916—2001) — ксёндз–марыянін, з 1953 г. быў сьвятаром у вёсцы Вішнева Валожынскага раёну. Зьвяртаўся да насельніцтва з казанямі па–беларуску. — *А.П.*

[12] Чарняўскі У. Беларусаў не спыталі... // ЛіМ. 1989. 27 кастрычніка.

Філарэт (Вахрамееў Кірыла Варфаламеевіч) (нар. 1935) — дзяяч Расейскай праваслаўнай царквы, з 1978 г. мітрапаліт Менскі і Слуцкі, з 1989 г. патрыяршы экзарх усяе Беларусі. — *А.П.*

нагоды візыту польскага кардынала Юзафа Глемпа[13] ў Беларусі ў верасьні 1988 г. Паводле гэтай ацэнкі, колькасьць каталікоў у БССР складае толькі каля 500 тысяч, большасьць якіх — палякі[14].

Гэтая апошняя лічба засталася па–за ўвагай ватыканскіх дзейнікаў, айца Надсана, айца Чарняўскага і польскіх публіцыстаў, якім, магчыма, больш адпавядала інфармацыя Ліды. Аднак жа такі ці іншы іх погляд не рашае справы колькасьці каталікоў у БССР, якая паводле прыведзеных ацэнак складае... ад 0,5 да 2,5 мільёна. Як бачым, абсурднасьць відавочная, што выклікае мэтазгоднасьць перагляду гэтых ацэнак не на падставе пажаданьняў, але сапраўднага статыстычнага матэрыялу і дэмаграфічных працэсаў.

Зыходным пунктам можа быць толькі перапіс насельніцтва Расейскай імпэрыі ад 1897 г. Вось жа, паводле гэтага перапісу, у пяцёх паўночна–заходніх губэрнях (Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Менскай і Магілёўскай) пражывала агулам 1950 тысяч каталікоў розных нацыянальнасьцяў. Тым часам тэрыторыя згаданых пяці губэрняў значна большая за тэрыторыю БССР. Зь іх толькі Менская і Магілёўская губэрні амаль цалкам увайшлі ў склад БССР, тады як іншыя губэрні — толькі часткова. Так, Віленскі, Сьвянцянскі і Троцкі паветы Віленскай губэрні знаходзяцца ў Літве, Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы Гарадзенскай губэрні — у Польшчы, а Люцынскі, Дзьвінскі і Рэжыцкі паветы Віцебскай губэрні — у Латвіі. У гэтых паветах, якія не ўваходзяць у склад БССР, у 1897 г. пражывала пераважная частка (1070 тысяч) усіх каталікоў пяцёх губэрняў.

Затое ў Менскай, Магілёўскай і тых частках Віленскай, Віцебскай і Гарадзенскай губэрняў, якія ўваходзяць у склад БССР, у той час было агулам 880 тысяч каталікоў, г.зн. 13,5% усяго насельніцтва. Такім чынам, яны прадстаўлялі адносна невялікую канфэсійную меншасьць у Беларусі і саступалі ня толькі праваслаўнаму (70%), але нават насельніцтву юдэйскага веравызнаньня (14%).

Варта заўважыць, што звыш 50% агульнай колькасьці каталікоў (амаль 450 тысяч) пражывала ў некалькіх сумежных зь Літвой паветах: Гарадзенскім, Ашмянскім, Лідзкім, Дзісенскім і Вялейскім. Астатняя частка была расьцярушана па ўсіх паветах Беларусі, у якіх, як правіла, была нязначнай меншасьцю. Выняткавае становішча было ў Менскім павеце (улучна з горадам Менскам), у якім каталікі складалі амаль 24% усяго насельніцтва.

У гістарычнай літаратуры часта выказваўся погляд, што невялікая ўдзельная вага каталікоў сярод насельніцтва Беларусі была абумоўлена антыкаталіцкай палітыкай царскага рэжыму і што гэтае становішча зьмянілася пасьля абвяшчэньня ў 1905 г. царскага ўказу аб канфэсійнай талерантнасьці. Для абгрунтаваньня згадвалася аб вяртаньні ў каталіцызм 233–х тысяч былых уніятаў, якія пасьля ліквідацыі уніі афіцыйна лічыліся праваслаўнымі[15]. Аднак і ў гэтым выпадку дапускалася памылка, паколькі ўвогуле правільная лічба 233 тысячы адносілася галоўным чынам да Холмшчыны і паўднёвага Падляшша[16]. Тым часам у Віленскай япархіі перайшло ў каталіцызм 30 тысяч праваслаўных, а ў Гарадзенскай і Менскай губэрнях — да 10 тысяч у кожнай, разам каля 50 тысяч[17]. Усё ж і гэтая лічба ня поўнасьцю адносіцца да тэрыторыі БССР, паколькі ўлучае

[13] Глемп Юзаф (нар. 1929) — кардынал, прымас Польшчы і архібіскуп Варшаўскі з 1981 г. — *А.П.*

[14] Szuba Z. Polsko–białoruskie magnalia // Kierunki. 25.09.1988.

[15] Станкевіч А. Родная мова ў сьвятынях. Вільня, 1929. С. 74.

[16] На Холмшчыне і паўднёвым Падляшшы ліквідацыя Грэка–каталіцкай царквы расейскім урадам адбылася толькі ў 1875 г., што, натуральна, прадвызначыла большую трываласьць уніяцкіх традыцыяў сярод насельніцтва гэтых тэрыторыяў. — *А.П.*

[17] У артыкуле “Канфэсійныя трансфармацыі на Беларусі і нацыянальная самасьвядомасьць” аўтар назваў іншую лічбу — 56 тысяч. — *А.С.*

літоўскія раёны Віленшчыны і польскія Гарадзеншчыны[18].

Такім чынам, колькасьць перайшоўшых у той час у каталіцызм на тэрыторыі сёньняшняй БССР можна ацаніць прыкладна на 40 тысяч чалавек. І хаця гэтая колькасьць авечак, адпалых ад царкоўнага стада, балюча ўспрымалася праваслаўным духавенствам, то ўсё ж у маштабе цэлай беларускай нацыі гэта была ледзь прыкметная зьмена яе канфэсійнай структуры. Можна лічыць, што пасьля 1909 году ўдзельная вага каталікоў на тэрыторыі БССР павялічылася менш чым на 1% і крыху перавысіла 14%. А гэта сьведчыць аб значнай стабільнасьці канфэсійнай структуры насельніцтва і дазваляе меркаваць, што прыкладна такой жа яна заставалася да першай сусьветнай вайны.

Істотныя зьмены ў гэтай галіне адбыліся ў міжваенны пэрыяд. Паводле польскага перапісу насельніцтва, у 1931 г. у Заходняй Беларусі лік каталікоў узрос да 1059 тысяч ня толькі ў выніку натуральнага прыросту, але і насаджваньня польскіх каляністаў, чыноўнікаў, настаўнікаў і іншых, колькасьць якіх, відаць, разам зь сем’ямі, перавышала 300 тысяч[19]. Меншыя зьмены адбыліся ўва Ўсходняй Беларусі, у якой на пачатку 30–х гадоў пражывала амаль 400 тысяч каталікоў[20].

Такім чынам, у той час іх колькасьць у абедзьвюх частках Беларусі дасягнула 1,4—1,5 мільёна, г.зн. звыш 17% усяго насельніцтва. Гэта быў рэкордны ўзровень як у абсалютных, так і адносных велічынях.

З канца 30–х гадоў пачынаецца доўгатрывалы працэс зьмяншэньня колькасьці беларускіх каталікоў. У 1937—1939 г. пераважная іх частка была вывезена з Усходняй Беларусі ў Казахстан і Сібір. Падобны быў лёс пераважнай часткі польскіх каляністаў у заходніх абласьцях, далучаных восеньню 1939 г. да БССР. Адначасова была вывезена з гэтага абшару пэўная колькасьць мясцовага каталіцкага насельніцтва. Прымаючы, што ў гэты час колькасьць каталікоў на ўсходзе зьменшылася, прынамсі, на 200 тысяч і на захадзе — на 300—400 тысяч, іх агульны лік напярэдадні нямецкай акупацыі ня мог перавышаць і мільёна.

Гэты працэс працягваўся і пасьля другой сусьветнай вайны галоўным чынам у рамках перасяленьня палякаў з БССР у Польшчу, якое адбывалася ў двух этапах: у 1945—1946 г. і ў 1958—1959 г., паколькі для ўладаў БССР рашаючым фактарам, які акрэсьліваў польскую нацыянальнасьць, было каталіцкае веравызнаньне, у Польшчу перасяляліся без асаблівых цяжкасьцяў і беларусы–каталікі, у 1945—1946 г. перасялілася з БССР у Польшчу 274 тысячы чалавек[21]. Вынікі другога перасяленчага этапу неапублікаваныя, аднак ацэньваюцца на звыш 100 тысяч чалавек.

Перасяленчая акцыя ў Польшчу, якая ахапіла каля 400 тысяч беларускіх каталікоў[22], была найважнейшым фактарам іх зьмяншэньня ў БССР. Акрамя гэтага, трэба ўлічыць страты падчас нямецкай акупацыі і пасьляваенныя дэпартацыі ўва ўсходнія раёны СССР. Такім чынам, улічваючы натуральны прырост, можам выказаць меркаваньне, што на канец 50–х гадоў іх агульная колькасьць у Беларусі не перавышала 600 тысяч. Такую ацэнку пацьвярджаюць дадзеныя перапісу насельніцтва 1959 г., паводле якога колькасьць палякаў у БССР складала 539 тысяч.

Аднак на працягу наступных дзесяцігодзьдзяў колькасьць каталіцкага насельніцтва працягвала зьмяншацца, нягледзячы на яго натуральны прырост. На гэта ўплывала ня толькі міграцыя ў іншыя рэспублікі СССР, але, на наш погляд, яго частковая атэізацыя і няўхільная “асыміляцыя” праваслаўнай большасьцю шляхам мяшаных сужэнстваў.

[18] Католицизм в Белоруссии. Минск, 1987. С. 37.

[19] Раков А. Население БССР. Минск, 1969. С. 130.

[20] Iwanow M. Polacy na dalszych kresach // Polityka. 19.03.1988.

[21] Rocznik Statystyczny 1949. Warszawa, 1959. S. 26.

[22] Сярод эмігрантаў быў таксама і невялікі працэнт праваслаўных. — *А.С.*

Вядома, нельга цалкам выключыць і некаторых "папраўак" вынікаў перапісаў насельніцтва.

У сьвятле гэтага дэмаграфічнага аналізу можна не сумнявацца, што пададзеная Лідам ацэнка колькасьці каталікоў (каля 2,2 мільёна) не адпавядае сапраўднасьці, а спасылка на інфармацыю Залескага была непаразуменьнем або фальсыфікацыяй. Памылковыя і іншыя ацэнкі, пабудаваныя на гэтай інфармацыі.

Затое блізкія да сапраўднасьці былі рэспубліканскія ўлады, якія ацэньвалі колькасьць гэтага насельніцтва на каля 500 тысяч. Магчыма, у гэтым выпадку браліся пад увагу толькі вернікі, аднак жа калі ўлічыць атэістаў каталіцкага паходжаньня і дзяцей каталіцка–праваслаўных ці іншых сужэнстваў, то сумарны лік няшмат перавысіў бы гэтую ацэнку, дасягаючы прыкладна 600—700 тысяч, што адпавядала б толькі 6—7% усяго насельніцтва рэспублікі. А гэта, статыстычна гледзячы, ужо грамадзкі маргінэс.

Як вядома, у гістарычным пляне значэньне рымскага каталіцызму ў Беларусі вымяралася ня колькаснымі паказчыкамі, але эканамічнай, палітычнай і культурнай роляй дваранства і духавенства — галоўных носьбітаў палянізацыі. Таму, змагаючыся з польскімі ўплывамі ў Беларусі, расейская палітыка змагалася і з каталіцызмам. Пры гэтым ігнараваўся той факт, што каталікамі былі і беларускія сяляне. Гэтай акалічнасьці расейскія ўлады не прымалі да ведама, паколькі паняцьце беларусаў–каталікоў ня ўкладвалася ў схему адзінай і непадзельнай Русі, якая, згодна зь іх поглядамі, магла быць толькі праваслаўнай.

Катэгорыя беларусаў–каталікоў не прызнавалася і савецкімі ўладамі, якія зрабілі шмат для іх ператварэньня ў палякаў. Аб гэтым сьведчыць дзейнасьць польскай аўтаноміі ў БССР у 30–я гады[23], а пасьля далучэньня заходніх абласьцёў — арганізацыя ў шырокіх маштабах польскамоўных школаў у беларускамоўных каталіцкіх асяродзьдзях. Аднак найбольш яскрава гэтыя адносіны ўладаў выявіліся падчас пасьляваеннага перасяленьня насельніцтва ў Польшчу. Урэшце, на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў рэспубліканскія ўлады не выказвалі зацікаўленьня беларусізацыяй Каталіцкай царквы ў БССР. Усё гэта адпавядала канцэпцыі дзеячоў "Истинно русского союза", сфармуляванай яшчэ ў 1910 г., паводле якой для расейскай справы ў Беларусі лепей было б апалячыць беларусаў–каталікоў, што ў будучыні дазволіла б іх адкінуць як чужое цела.

Выпадае заўважыць, што такія адносіны царскіх і савецкіх уладаў прыхільна ўспрымаліся праваслаўнай большасьцю беларусаў, якія па традыцыі сваіх аднамоўных братоў лічылі палякамі. У гэтых адносінах характэрны пэрыяд апошняй нямецкай акупацыі, калі праваслаўныя дзеячы самастойна і безь нічыёй інсьпірацыі змагаліся зь беларускім каталіцтвам, трактуючы яго як польскую экспазытуру.

У выніку гэтых працэсаў, якія сёньня могуць быць толькі прадметам зацікаўленьня гісторыкаў, сфармавалася новая канфэсійная структура насельніцтва Беларусі (з папраўкай на паходжаньне атэістаў), у якой каталіцызм не ўяўляе істотнай праблемы. Гэта адносіцца і да Гарадзенскай вобласьці, у якой пражывае каля 75% беларускіх каталікоў, паколькі і ў гэтай вобласьці яны складаюць меншую частку (25—30%) усяго яе насельніцтва.

Гэтая акалічнасьць абумоўлівае пэрспэктыву каталіцызму ў Беларусі. Магчыма, пры ўмове беларусізацыі, Каталіцкая царква лепш служыла б нацыянальнаму адраджэньню, чым скасьцянелая ў русафільстве Праваслаўная царква, і прыцягнула б да сябе пэўную колькасьць праваслаўных. Аднак няцяжка ўявіць, што нейкі больш прыкметны рух у гэтым напрамку выклікаў бы адмоўную рэакцыю Праваслаўнай царквы і новыя веравызнаўчыя антаганізмы, якія маглі б аслабіць і так невялікі грамадзкі патэнцыял каталіцызму ў Беларусі.

[23] Маецца на ўвазе функцыянаваньне польскага аўтаномнага раёну БССР з цэнтрам у Дзяржынску (Койданаве) у 1932—1937 г. — *А.П.*

Гэты слабы патэнцыял не прадстаўляе больш пагрозы ідэйным спадчыньнікам "адзінай і непадзельнай", якія з іроніяй глядзяць на наіўныя спробы максымалізаваць каталіцкую праблему. Па гэтай прычыне яны лёгка дазваляюць на лібэралізм у дачыненьні да польскага пытаньня, што, на нашу думку, ёсьць палітычнай гульнёй, накіраванай на стварэньне польскай процівагі ці, можа, пагрозы такой процівагі беларускаму адраджэнскаму руху. Аб гэтым, у прыватнасьці, сьведчыць факт, што для задуманай уладамі рэанімацыі польскага руху ў Беларусі спатрэбіліся такія "палякі", як Саша Семенов у Лідзе ці палкоўнік Гавін[24] з Валодзем Малашкевічам[25] у Горадні.

*Друкуецца паводле:* Скарыніч. Літаратурна–навуковы гадавік.
Вып. 1. Менск, 1991.

[24] Гавін Тадэвуш (нар. 1951) — польска–беларускі грамадзка–палітычны дзяяч, у 1988—1990 г. старшыня Польскага культурна–асьветнага таварыства імя А. Міцкевіча ў Горадні, у 1990—2000 гг. старшыня Саюзу палякаў на Беларусі. У 1972—1991 г. служыў у войску, звольніўся ў запас у званьні падпалкоўніка. — *А.П.*

[25] Малашкевіч Уладзімер (нар. 1939) — польска–беларускі журналіст, актывіст польскага руху ў Горадні. Быў галоўным рэдактарам гарадзенскай польскай газэты "Głos znad Niemna". — *А.П.*

# Да гісторыі Друйскага марыянскага манастыра

Заснаваны ў 1923 г. Друйскі манастыр айцоў марыянаў[1] быў першым у гісторыі беларускім каталіцкім манастыром — беларускім ня толькі ў геаграфічным сэнсе, але і па сваёй ідэйнай накіраванасьці. У гэтых адносінах ён быў манастыром незвычайным, паколькі не адпавядаў польскамоўнай традыцыі Рыма–каталіцкай царквы ў Беларусі.

У сваім выступленьні пастараюся разгледзець акалічнасьці заснаваньня манастыра, яго мэты, дзейнасьць і ролю ў грамадзка–культурным жыцьці Заходняй Беларусі, адносіны польскай дзяржавы і, урэшце, лёсы друйскіх марыянаў. Для распрацоўкі тэмы былі выкарыстаны матэрыялы, апублікаваныя марыянамі ў часопісе “Божым Шляхам”, які выдаваўся ў Парыжы і Лёндане[2], праца польскага дасьледчыка Тадэвуша Гурскага пра біскупа Юр’я Матулевіча, успаміны айца Язэпа Германовіча і Язэпа Найдзюка, архіўныя фонды даваеннага польскага міністэрства веравызнаньняў і народнай асьветы, даваенная прэса і іншыя крыніцы.

Заснаваньне любога каталіцкага манастыра звычайна адбывалася на падставе дазволу Апостальскага пасаду, які даваўся на просьбу тэрытарыяльна кампэтэнтнага біскупа. Паколькі Друя знаходзілася на тэрыторыі Віленскага біскупства, афармленьнем заснаваньня Марыянскага манастыра займаўся віленскі біскуп Юры Матулевіч[3].

Юры Матулевіч нарадзіўся ў 1871 г. у вёсцы Лугіне, што каля Марыямпаля Сувальскай губэрні. Паходзіў зь літоўскай сялянскай сям’і. Вышэйшую тэалягічную адукацыю атрымаў у Варшаве, Пецярбургу і Фрыбургу ў Швайцарыі. З 1907 да 1911 г. быў прафэсарам сацыялёгіі і тэалёгіі ў пецярбурскай Каталіцкай духоўнай акадэміі. Тут у 1909 г. ён уступіў у ордэн марыянаў і з гэтага часу працаваў для яго разьвіцьця. Між іншым, у 1915—1918 г. заснаваў марыянскія манастыры ў Варшаве і ў Марыямпалі ў Літве. У кастрычніку 1918 г. быў назначаны Апостальскім пасадам віленскім біскупам і аднačасова генэралам ордэна марыянаў.

З пытаньнем беларускага адраджэньня Матулевіч пазнаёміўся яшчэ ў Пецярбурскай акадэміі, дзе супрацоўнічаў, між іншым, зь вядомым беларускім дзяячом Баніславам Эпімах–Шыпілам. У гэты час дзейнічала ў Пецярбургу пад кіраўніцтвам Вацлава Іваноўскага выдавецкая суполка “Загляне сонца і ў наша аконца”, выраслі першыя кадры беларускай народнай інтэлігенцыі, а ў іх ліку і беларускага каталіцкага духавенства.

Будучы віленскім біскупам, Матулевіч быў вымушаны практычна вырашаць складаныя міжнацыянальныя пытаньні даверанай яму каталіцкай паствы. Як літовец ён добра разумеў, што каталіцызм не зьяўляецца “польскай верай” і пасьлядоўна дапускаў стасаваньне беларускай і літоўскай моў у касьцельным жыцьці беларусаў і літоўцаў. Сваю пазыцыю ў гэтай справе біскуп Матулевіч выказаў у лісьце да кардынала Гаспары[4] як наступнае:

---

[1] Марыянамі называлі сяброў Аб’яднаньня ксяндзоў марыянаў бязгрэшнага зачацьця Панны Марыі — каталіцкага манаскага ордэну, заснаванага ў 1673 г. — *А.П.*

[2] Грамадзка–рэлігійны і літаратурна–гістарычны часопіс “Божым Шляхам” выдаваўся беларускім грэка–каталіцкім сьвятарствам у Парыжы ў 1947—1957 г. і ў Лёндане ў 1957—1980 г. Яго рэдактарамі ў розныя часы былі айцы Часлаў Сіповіч, Леў Гарошка, Язэп Германовіч, Аляксандар Надсан. — *А.П.*

[3] Górski T. Stosunek biskupa Matulewicza do spraw językowych diecezji wileńskiej 1918—1925. Rzym, 1970. S. 4—5.

[4] Гаспары П’етра (1852—1934) — кардынал, ватыканскі дыпляматт, у 1914—1930 гг. дзяржаўны сакратар Ватыкану. Кіраваў кадыфікацыйнай камісіяй касьцельнага права. — *А.П.*

Калі на мяне націскалі, каб я быў супроць беларусаў, тады я адкрыта заявіў: няхай не патрабуюць ад мяне таго, каб я прыгнятаў і прасьледаваў у сьвятароў няпольскай нацыянальнасьці тое, што бачу хвалёным і ўзнагароджаным у сьвятароў палякаў. Як пастыр я павінен быць аднолькава справядлівы для ўсіх[5].

Задума заснаваць беларускі Марыянскі манастыр была адным зь першых пачынаньняў Матулевіча на віленскім біскупскім пасадзе. Ужо 27 лютага 1919 г. ён прыняў маладога і энэргічнага беларускага сьвятара, дарэчы, гадунца Пецярбурскай акадэміі, айца Андрэя Цікоту, якому прапанаваў арганізаваць манастыр. Падчас гэтай сустрэчы Матулевіч запэўніў Цікоту, што будзе спрыяць беларускаму адраджэнскаму руху, так матывуючы сваю пазыцыю:

1. Задачай царквы ёсьць не навучаньне мовы, але Закону Божага ў зразумелай для народу мове. Беларускі народ найлепш пазнае Закон Божы, калі ён будзе навучацца ў яго роднай мове.
2. Беларускі рух адраджаецца і пашыраецца, і калі Каталіцкая царква ня выйдзе яму насустрач, то гэты рух пойдзе супроць царквы і будзе яе вінаваціць за імкненьне да дэнацыяналізацыі беларускага народу.
3. Трэба мець на ўвазе і беларусаў праваслаўных і колішніх уніятаў, да якіх можна прыблізіцца, прапаведуючы Божае слова толькі ў беларускай мове[6].

Айцец Цікота хутка згадзіўся з прапановай і матывацыяй біскупа, аднак, будучы прафэсарам беларускай каталіцкай сэмінарыі ў Менску (1918—1920)[7], ня мог неадкладна пакінуць заняткі, і толькі ў верасьні 1920 г., пасьля ліквідацыі сэмінарыі савецкімі ўладамі, ён уступіў у ордэн марыянаў у Марыямпалі. Паводле гадавога навіцыяту, восеньню 1921 г. а. Цікота быў высланы ў Амэрыку для збору сродкаў на плянаваны беларускі манастыр[8].

Тым часам біскуп Матулевіч афармляў у Рыме справу заснаваньня манастыра. Прапанавалася Друя — мястэчка "на скраю сьвету", дзе існаваў прыгожы пафранцішканскі касьцёл, пабудаваны ў 1644 г. Казімерам Сапегам, сынам канцлера Вялікага Княства Літоўскага Лява Сапегі, а таксама старыя напаўразваленыя манастырскія будынкі. Сваімі рэскрыптамі ад 23 ліпеня і 10 жніўня 1923 г. Папа Пій XI[9] дазволіў заснаваць у Друі манастыр айцоў марыянаў і перадаць ім касьцёл і парафію. Папскі акт фундацыі пастанаўляў, што мэтай дзейнасьці друйскіх марыянаў павінна быць аднаўленьне старога манастырскага будынку, заснаваньне школы і навіцыяту для беларусаў — кандыдатаў на манахаў, між іншым, для працы сярод беларускага праваслаўнага насельніцтва[10].

Як бачым, ідэя, выказаная біскупам Матулевічам у размове з айцом Цікотам, была ўхвалена Апостальскім пасадам, што дало фармальную падставу для яе ажыцьцяўленьня. У палове 1923 г. а. Цікота прыехаў у Друю і пераняў ад мясцовага параха а. Антона Зянкевіча[11] манастыр, парафію, касьцёл і яго зямельную маёмасьць. З гэтага часу Друйскі манастыр пад кіраўніцтвам Цікоты паступова разьвіваўся і папаўняўся: у 1924 г. пры-

---

[5] Божым Шляхам. 1957. № 76—81. С. 13.
[6] Górski T. Тамсама, с. 48.
[7] Каталіцкая духоўная сэмінарыя была заснаваная ў Менску ў 1918 г. намаганьнямі беларускіх ксяндзоў. Яе рэктарам быў ксёндз–беларус Фабіян Абрантовіч. Спыніла існаваньне пасьля заняцьця Менску бальшавікамі. — *А.С.*
[8] Божым Шляхам. 1957. № 76—81. С. 14 і 1964. № 82. С. 6.
[9] Пій XI (1857—1939) — папа рымскі ў 1922—1939 г. — *А.П.*
[10] Тамсама. 1957. № 76—81. С. 14; 1973. № 136. С. 3.
[11] Зянкевіч Антон (1888—1949) — каталіцкі ксёндз, удзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху. — *А.П.*

былі сюды а. Язэп Германовіч і Казімер Смулька[12], у 1925 г. — а. Язэп Дашута[13] і ў 1926 г. — а. Фабіян Абрантовіч. Да марыянаў далучыўся ранейшы вікары друйскага параха а. Віталіс Хамёнак[14]. Папаўняўся і навіцыят: ужо ў 1924 г. ён налічваў 9 юнакоў беларусаў, якія рыхтаваліся ўступіць у ордэн марыянаў[15].

На працягу першых гадоў дзейнасьці манастыра была зроблена вялікая работа: адноўлены і разбудаваны стары манастырскі будынак, адрамантаваны касьцёл, наладжана манастырская гаспадарка, у тым ліку адноўлены 60–гектаравы фальварак непадалёк Друі, які пасьля ваеннага ліхалецьця знаходзіўся ў запушчаным стане, без гаспадарчых будынкаў. Пры гэтым абслугоўвалася парафія, якая налічвала каля 5 тысяч душ.

Важнай сфэрай дзейнасьці друйскіх марыянаў была адукацыя моладзі. Ужо ў 1923 г. тут была заснавана гімназія, якой цэлае дзесяцігодзьдзе кіраваў супэрыёр манастыра а. Цікота. І хаця ў гімназіі навучаньне вялося па–польску, дзякуючы выхаваўчай працы яе настаўнікаў Абрантовіча, Германовіча, Дашуты і Хамёнка яна выпусьціла нямала беларускіх інтэлігентаў. Прыгадаем прозьвішчы хаця б Язэпа Малецкага, Антона Цьвячкоўскага, Віктара Ярмалковіча ці пазьнейшых сьвятароў — Міколу Баговіча, Фэлікса Журню[16], Юр'я Кашыру[17], Антона[18] і Тамаша Падзяваў[19], Часлава Сіповіча[20].

У палове 30–х гадоў друйскія марыяне купілі ў Вільні дом пры вуліцы Зыгмунтоўскай, 25, куды кіраваліся тыя выпускнікі гімназіі, якія ўступілі ў ордэн марыянаў і жадалі вучыцца ў Віленскай духоўнай сэмінарыі. Быў гэта т.зв. Марыянскі дом студыяў[21] — парастак Друйскага манастыра, якім у 1935—1936 г. кіраваў а. Кашыра і на працягу двух наступных гадоў — а. Германовіч. Вось што аб ім напісаў Германовіч:

> Была моладзь, кіпела праца. Ня раз пабывалі ў тым доме беларускія сьвятары, дзяячы, мастакі і паэты. Помню, адведалі нас ксяндзы Ад. Станкевіч, Ул. Талочка[22], Навіцкі, Семашкевіч (паэт Быліна)[23] і іншыя.

---

[12] Смулька Казімер (1894—1965) — каталіцкі ксёндз, удзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху, адзін зь беларускіх манахаў–марыянаў Друйскага манастыра. — *А.П.*

[13] Дашута Язэп (1890—1966) — каталіцкі ксёндз, удзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху, адзін зь беларускіх манахаў–марыянаў Друйскага манастыра. — *А.П.*

[14] Хамёнак Віталіс (1889—1971) — каталіцкі сьвятар усходняга абраду, удзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху, адзін зь беларускіх манахаў–марыянаў Друйскага манастыра. — *А.П.*

[15] Тамсама. 1957. № 76—81. С. 14; 1964. № 82. С. 6 і 10; 1966. № 98. С. 11—15 і 1969. № 113. С. 11.

[16] Журня Фэлікс (1913—1982) — каталіцкі ксёндз, актыўны ўдзельнік беларускага хрысьціянскага руху на эміграцыі. — *А.П.*

[17] Кашыра Юры (1904—1943) — каталіцкі ксёндз, актыўны ўдзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху. — *А.П.*

[18] Падзява Антон (1913—1955) — каталіцкі ксёндз, актыўны ўдзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху. — *А.П.*

[19] Падзява Тамаш (1906—1975) — каталіцкі сьвятар усходняга абраду, актыўны ўдзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху, пасьля вайны дзейнічаў на эміграцыі. — *А.П.*

[20] Сіповіч Часлаў (1914—1981) — беларускі каталіцкі сьвятар усходняга абраду, актыўны ўдзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху. Пасьля вайны жыў у Лёндане, быў апостальскім візытатарам для беларусаў–каталікоў на эміграцыі. — *А.П.*

[21] Марыянскі дом студэнта (Марыянская калегія, Марыянскі дом) пачаў сваю працу ў верасьні 1935 г., калі ў ім пасяліліся пяць клерыкаў. Яны вучыліся на багаслоўскім факультэце ўнівэрсытэту імя Сьцяпана Батуры і, апрача таго, мелі дадатковыя курсы лаціны, літургікі і ўсходняга багаслоўя ў духоўнай сэмінарыі. Гэтымі клерыкамі былі Казімер Аніськовіч (паляк), Фэлікс Журня, Антон Падзява, Чэслаў Сіповіч і Антон Цьвячкоўскі. — *А.С.*

[22] Талочка Ўладзіслаў (1887—1942) — каталіцкі ксёндз, актыўны ўдзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху. — *А.П.*

[23] Семашкевіч Янка (пс. Янка Быліна) (1883—1956) — каталіцкі ксёндз, актыўны ўдзельнік беларускага хрысьціянска–дэмакратычнага руху, паэт. — *А.П.*

Гасьцілі ў нас так жа Антон Луцкевіч, Трэпка, Шутовіч, Дубейкаўскі, Максім Танк, Забэйда–Суміцкі. Віленскі беларускі дом айцоў марыянаў быў сапраўднай клетачкай беларускага духовага адраджэньня. Аднак праіснаваў ён толькі 3 гады[24].

Прадстаўленыя зьдзяйсьненьні сьведчаць перш за ўсё аб добрым фінансавым становішчы Друйскага манастыра, хаця, вядома, аб падрабязнасьцях гэтага становішча гаварыць цяжка. У прыватнасьці, невядома, якія сродкі прывёз Цікота з Амэрыкі, а таксама якая была папская фундацыя. Затое вядома, што манастырская гаспадарка давала нядрэнны даход. Гэтыя сродкі папоўніла ахвяраваньне княгіні Магдалены Радзівіл, вядомай з дабрадзейных адносін да беларусаў. Вось жа, у 1916 г. яна ахвяравала на беларускія рэлігійныя мэты дыямэнтавы нашыйнік, які ў 1925 г. каштаваў 15 тысяч даляраў. Значную частку гэтых грошай прынёс у манастырскую касу а. Абрантовіч як свой манаскі пасаг[25].

Гэтыя сродкі дазволілі Друйскаму манастыру ня толькі на рэалізацыю прадугледжаных у папскім рэскрыпце мэтаў, але і на асаблівую іх інтэрпрэтацыю, якая выразілася ў ціхай неафіцыйнай падтрымцы заходнебеларускай палітычнай партыі — Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Асабліва значнай была выдавецкая дзейнасьць БХД, якая ажыцьцяўлялася ня толькі пад шыльдай гэтай партыі, але і зь яе інсьпірацыі. Вядома, гэтая дзейнасьць патрабавала значных сродкаў, якіх хадэцкія дзяячы ня мелі.

Паколькі найбольшай праблемай былі кошты друку кніжак і часопісаў, сярод хадэцкіх дзяячоў узьнікла задума арганізаваць сваю друкарню. Паводле сьведчаньня Язэпа Найдзюка — аднаго з арганізатараў і шматгадовага кіраўніка друкарні — для ажыцьцяўленьня гэтай задумы ў 1925 г. паўстала ў Вільні ціхая суполка, у склад якой увайшлі чатыры асобы: а. Адам Станкевіч, а. Вінцук Гадлеўскі, Фабіян Ярэміч і супэрыёр Друйскага манастыра а. Цікота[26]. Стараньнем гэтай суполкі ў 1926 г. пачала сваю дзейнасьць віленская Беларуская друкарня імя Ф. Скарыны. Вырашальную ролю ў рэалізацыі гэтага праекту адыграў фінансавы ўклад Друйскага манастыра. У гэтых адносінах магчымасьці іншых удзельнікаў суполкі былі больш абмежаванымі.

Дзейнасьць друйскіх марыянаў была сольлю ў вачох як польскіх уладаў, так і мясцовых шавіністаў. Усё ж іх абвінавачваньне ў антыдзяржаўнай дзейнасьці было па сутнасьці немагчымым. Па–першае, дзякуючы адпаведнай дыскрэцыі не была раскрытая матэрыяльная падтрымка манахаў хадэцкаму руху, аб чым сьведчылі падазрэньні польскай прэсы, быццам бы манастыр карыстаўся грашовай падтрымкай... СССР[27]. І па–другое, пачатыя марыянамі ў 1924 г. сыстэматычныя казані на беларускай мове ў друйскім касьцёле і яго філійнай капліцы ў Малькоўшчыне ні ў чым не абмяжоўвалі польскамоўных набажэнстваў.

Аднак само гучаньне беларускага слова з касьцельных амбонаў выклікала агрэсіўныя дзеяньні мясцовых шавіністаў. Акрамя таго, не задавальняла іх тое, што манахі маліліся і гаварылі паміж сабою і зь беларускімі вернікамі па–беларуску, што на гэтай мове яны вучылі дзетак Закону Божаму, спавядалі, што ўся манастырская атмасфэра была беларуская[28].

[24] Германовіч Я. Кітай—Сібір—Масква (успаміны). Мюнхэн, 1962. С. 14; Божым Шляхам. 1964. № 82. С. 11.

[25] Тамсама. 1957. № 76—81. С. 12. — *Ю.Т.*

Магдалена Радзівіл ахвяравала дыямэнтавае кальe ў 1917 г. на заснаваньне беларускай грэка–каталіцкай калегіі ў Рыме. У 1924 г. яно было прададзенае ксяндзом Фабіянам Абрантовічам за 15 тысяч амэрыканскіх даляраў, а грошы былі перададзеныя ўва ўласнасьць беларускім айцам–марыянам у Друі. Такое нямэтавае расходаваньне сродкаў пакрыўдзіла княгіню, якая выказала супраць гэтага пратэст (падрабязьней гл.: Надсан А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Менск, 2004. С. 26—28). — *А.П.*

[26] Цыпрыяновіч С. (Найдзюк Я.) Беларуская друкарня імя Ф. Скарыны ў Вільні 1926—1941 (Успаміны). Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве, аддзел рукапісаў, № 181.

[27] Божым Шляхам. 1973. № 136. С. 3.

[28] Гэтае цьверджаньне не зусім слушнае. Сам а. Андрэй Цікота пасьля высяленьня беларускіх марыянаў з Друі ў 1938 г. пісаў у сваёй скарзе да папскага нунцыя ў Польшчы:

А ўсё гэта, на думку шавіністаў, ставіла пад пагрозу пасьпяховасьць палянізацыйнай палітыкі ўладаў[29].

Гэтыя антыбеларускія дзеяньні не прадстаўлялі друйскім марыянам большай небясь-

---

У Друйскай парафіі ёсьць нямала брацтваў і рэлігійных таварыстваў, якімі старанна кіравалі айцы [марыяне]. Усе паседжаньні і зборкі гэтых арганізацыяў адбываліся толькі на польскай мове… Лік (падпісчыкаў) каталіцкіх часопісаў і бюлетэняў на польскай мове — некаторыя зь іх тыднёвікі, а іншыя месячнікі — даходзіць да 1000, затое на беларускай мове лік паасобнікаў каталіцкага часопіса, які выходзіць 2 разы ў месяц, летась не перавысіў 10. У апошнія гады было распаўсюджана больш як 1500 малітаўнікаў на польскай мове, а на беларускай каля 20. У парафіяльнай бібліятэцы ёсьць каля 1500 кніг, але толькі 4 зь іх на беларускай мове, астатнія — на польскай. Апроч працы чыста царкоўнай і рэлігійнай, айцы заснавалі ў 1924 годзе польскую гімназію, у якой ужывалася толькі польская мова, усе настаўнікі, з выняткам аднаго айца, былі палякамі і, беручы пад увагу закіды, якія рабіліся нашым айцам, налягалі на тое, каб узмацніць польскі дух больш, чым гэта звычайна робіцца ў іншых гімназіях.

У Друі існуюць розныя польскія грамадзкія таварыствы і гурткі, якія часта ладзяць розныя нацыянальныя сьвяткаваньні. На ўсе гэтыя сьвяткаваньні запрашалі нашых айцоў, і яны, наколькі гэта было магчыма сьвятаром, бралі ў іх удзел, а часам і самі іх арганізоўвалі. Наадварот, праз увесь час свайго знаходжаньня ў Друі яны не заснавалі ніводнага беларускага гуртка…

У зносінах між сабою законьнікі карыстаюцца як беларускай, так і польскай мовамі. Ня ўсе законьнікі — беларусы, ёсьць таксама палякі і летувісы, хоць іх менш лікам. Айцы, якія займаюцца рознымі справамі, а таксама клерыкі… ніколі ня мелі (абавязку) вывучаць беларускую мову і літаратуру. Апошнія пяць гадоў кіраўнік (супэрыёр) дому паляк, сярод 17 юнакоў было 11 палякаў, і ва ўсім доме чуецца больш польская мова, чым беларуская.

Усе айцы Друйскага дому ўзгадаваныя хутчэй у польскім духу, чым у беларускім, і таму самі бязь цяжкасьцяў карыстаюцца польскай моваю. Прызнаючыся ў сваёй беларускай нацыянальнасьці, яны ня ставяць перад сабою ніякіх нацыянальных мэтаў, а карыстаюцца беларускай моваю, каб іх лепш разумелі. Маючы заўсёды перад вачыма артыкул 180 Канстытуцыяў [марыянскіх], … айцы ніколі ня ўмешваліся ў ніякія палітычныя ці нацыянальныя справы. Таму нярэдка з боку беларускай інтэлігенцыі ім рабілі закіды, што сваёй дзейнасьцю яны быццам уціскалі беларускую нацыянальнасьць і запавольвалі ейнае разьвіцьцё. Сапраўды, ранейшая дзейнасьць беларускай моладзі, не падтрыманая айцамі, паступова быццам зьнікла, і ад часу зьяўленьня ў Друйскай парафіі закону аа. марыянаў у ёй не было ніякіх беларускіх сцэнічных пастановак ці хораў.

*Цытуецца паводле:* Надсан А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Менск, 2004. С. 47—48.

Невысока ацэньвалі дзейнасьць беларускіх марыянаў у нацыянальным пляне і іншыя беларускія дзяячы, у тым ліку і рэлігійныя. Так, ксёндз Віктар Шутовіч пісаў у Амэрыку да айца Хрызастома Тарасэвіча:

У гэты момант я сумняваюся, ці беларускія законьнікі калі што добрага зробяць для свайго народу. Я гэта бачу па марыянах. Цікота мой калега, і ён поўны жыцьця і сілаў. Многа рабіў для беларусаў, пакуль ня стаўся законьнікам. Закон яго пераламаў на нейкага касмапаліта. У Друі ён больш працаваў для палякаў, як для беларусаў. А заплацілі яму за гэта кпінамі і балотам. Цяпер ён, як і ты, выгнаны з роднага краю і недзе туляецца па шырокім сьвеце. Ягоныя законьнікі беларусы таксама ў разгонцы, аніводнага няма ў родным краі! Вось табе і законнае жыцьцё для беларусаў!

*Цытуецца паводле:* Надсан А. ... С. 46. — *А.П.*

[29] Польскія ўлады бачылі небясьпеку для польскасьці і сваёй палітыкі нават у фактах ужываньня сьвятарамі беларускай мовы ў прыватных размовах з насельніцтвам. Так, у 1935 г. слонімскі павятовы староста паставіў перад вышэйшымі ўладамі пытаньне аб прымусовым выдаленьні зь межаў Польшчы прыехаўшага з Амэрыкі на 2 месяцы ў госьці да сваякоў у родную вёску Кляшчэлі ксяндза Янкі Тарасевіча на той падставе, што той,

нягледзячы на тое, што можа добра размаўляць па–польску, размаўляе зь мясцовым насельніцтвам толькі па–беларуску і людзям, якія зь ім сутыкаюцца, наогул забараняе размаўляць па–польску, кажучы, што яны — беларусы, а ніякія не палякі, і па гэтай прычыне павінны размаўляць толькі па–беларуску… Кс. Тарасевіч наогул выяўляе непрыязь да польскай дзяржаўнасьці і сваімі паводзінамі настройвае ляяльнае насельніцтва супраць польскай дзяржаўнасьці і за час свайго побыту можа шмат благога зрабіць для польскасьці.

пекі, пакуль на біскупскай сталіцы заставаўся іх прарэктар, Юры Матулевіч. Аднак у 1925 г., у выніку дзікай кампаніі і націскаў польскага ўраду на папскага нунцыя ў Варшаве Матулевіч быў вымушаны пакінуць Вільню. Назначаны на яго месца новы біскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі[30] не працягваў палітыкі свайго папярэдніка і вызначыўся татальнай ліквідацыяй беларускай мовы ў касьцёлах Віленшчыны. Найчасьцей гэта дасягалася шляхам службовага перамяшчэньня беларускіх сьвятароў у польскія парафіі, у якіх яны маглі паслугоўвацца ўжо толькі польскай мовай.

У Друі першай ахвярай гэтай палітыкі стаў а. Абрантовіч, які ў чэрвені 1928 г. быў накіраваны Апостальскім пасадам у Харбін для місійнай дзейнасьці сярод расейскай эміграцыі. І хіба толькі канфэсійная ляяльнасьць а. Чеслава Сіповіча прымусіла яго паставіць такое пытаньне: “Хто і чаму пастараўся пераканаць папу Пія XI, што а. Фабіян (Абрантовіч. — *Ю.Т.*) ёсьць неабходным для працы сярод расейцаў на Далёкім Усходзе ў Харбіне, а Друя і беларусы могуць абыйсьціся і безь яго, дагэтуль нам невядома”[31]. Аднак у 1932 г. падобны лёс спаткаў таксама а. Германовіча і ў 1933 г. а. Цікоту[32], які да 1939 г. прабываў у Рыме, пасьля чаго быў накіраваны ў той жа Харбін[33].

Гэта быў моцны ўдар па Друйскім манастыры, які такім чынам пазбаўляўся сваіх вядучых членаў. Усё ж манастыр працягваў дзейнічаць. Хаця і ў паменшаным складзе. Паводле Тадэвуша Гурскага, каля 1929 г. былі спынены беларускія казані ў Друйскім касьцёле[34], хаця іншыя крыніцы сьведчаць, што а. Хамёнак гаварыў іх па–беларуску аж да яго высяленьня з Друі летам 1938 г.[35].

На хвалі ўзрастаючага антыбеларускага тэрору ў чэрвені 1938 г. польская паліцыя, выконваючы загад віленскага ваяводы Бацянскага, высяліла з Друі астатніх айцоў марыянаў: Дашуту, Кашыру, Смульку і Хамёнка, а празь месяц — чатырох марыянскіх клерыкаў: Антона Падзяву, Казімера Саруля, Баніфаца Саруля і Чеслава Сіповіча[36]. Замест іх у Друю былі накіраваны марыяне–палякі, якія ў выніку распаду польскай дзяржавы і далучэньня Заходняй Беларусі да БССР не разгарнулі шырэйшай дзейнасьці.

Разгон друйскіх марыянаў выклікаў абурэньне і пратэсты ня толькі беларускай прэсы, але і некаторых польскіх дэмакратычных колаў. За дэталёвае апісаньне гэтай ганебнай падзеі ў палове чэрвеня 1938 г. быў канфіскаваны часопіс “Шлях моладзі” (№ 14), а таксама польская газэта “Kurjer Wileński”[37] (ад 12.06.1938). Усе іх намаганьні вярнуць беларускіх манахаў у Друю былі безвыніковымі. Дарэмнымі былі стараньні нават генэрала Люцыяна Жалігоўскага, які ў польскага прэм'ера, прэзыдэнта і ў кіраўнікоў парлямэнту дабіваўся адмены загаду віленскага ваяводы[38]. Аб

---

Характэрна, што, нягледзячы на адсутнасьць іншых доказаў “падрыўной” дзейнасьці, усе вышэйшыя ўлады аж да міністэрства замежных справаў у цэлым прызналі рацыю старасты, і прымусовае выдаленьне ксяндза не адбылося, відаць, толькі па прычыне натуральнага заканчэньня тэрміну яго знаходжаньня ў Польшчы (ААН. Міністэрства замежных справаў 1918—1939. Сыгн. 5290. А. 10). — *А.П.*
Божым Шляхам. 1973. № 136. С. 3. — *Ю.Т.*

30 Пераводзячы біскупа Юр'я Матулевіча ў Літву, Сьвяты пасад падвысіў Віленскую дыяцэзію да рангу архідыяцэзіі (мітраполіі). Першым архібіскупам быў прызначаны Ян Цепляк, але напярэдадні інгрэсу ён памёр. На ягонае месца быў пастаўлены Рамуальд Ялбжыкоўскі. — *А.С.*

31 Тамсама. 1957. № 76—81. С. 15.

32 21 ліпеня 1933 г. айцец Андрэй Цікота быў абраны генэралам марыянскага ордэна і мусіў пакінуць Друю, што было на руку польскім шавіністам. — *А.С.*

33 Тамсама. 1964. № 82. С. 6.

34 Górski T. ... С. 65.

35 Божым Шляхам. 1971. № 128. С. 24.

36 Шлях Моладзі. 1938. 30 чэрвеня і 25 ліпеня.

37 “Kurjer Wileński” — польская газэта, якая выдавалася польскімі дэмакратамі ў Вільні ў 1924—1940 г. — *А.П.*

38 Божым Шляхам. 1938. 5 кастрычніка.

лёсе друйскіх марыянаў рашала нацыянальная палітыка польскай дзяржавы, якая патрабавала рашучага змаганьня з тэндэнцыямі беларусізацыі Рыма–каталіцкай царквы[39]. Згодна з гэтай палітыкай беларускія каталікі павінны былі стацца палякамі.

Як склаліся далейшыя лёсы беларускіх марыянаў? Кашыра, які ў чэрвені 1942 г. вярнуўся ў Друю, неўзабаве выехаў у Росіцу на Віцебшчыне і тут 17 лютага 1943 г. загінуў з рук эсэсаўскіх карнікаў разам зь мясцовымі жыхарамі[40]. Абрантовіч летам 1939 г. вярнуўся з Харбіна на радзіму, быў арыштаваны савецкімі органамі і загінуў. Цікоту і Германовіча кітайцы выдалі ў 1948 г. савецкім органам, і неўзабаве яны апынуліся ў Сібірскіх лягерох. Там Цікота памёр у 1952 г., а Германовіч у 1955 г. быў вызвалены і праз Польшчу выехаў на Захад. Смулька і Хамёнак пасьля высяленьня з Друі ўвесь час жылі ў Польшчы, там яны памерлі ў гадох 1965—1971[41].

Хаця дзейнасьць беларускага манастыра ў Друі закончылася ў 1938 г., але яго традыцыя жыла яшчэ доўгі час. Вось жа, адзін з друйскіх клерыкаў, выгнаных польскай паліцыяй у 1938 г., Часлаў Сіповіч, не застаўся ў Польшчы, але выехаў у Рым, дзе падчас вайны закончыў тэалягічную адукацыю, стаў сьвятаром (1940), а пасьля вайны (у 1946 г.) заснаваў у Лёндане беларускі Марыянскі дом і шмат пазьней — Бібліятэку імя Ф. Скарыны. Тут працавалі і закончылі свой жыцьцёвы шлях айцы марыяне: Леў Гарошка[42], Язэп Германовіч, Тамаш Падзява і Фэлікс Журня, а таксама брат марыянін Мікола Баговіч. У ліпені 1960 г. а. Сіповіч быў назначаны біскупам і Апостальскім візытатарам для беларусаў каталікоў на чужыне. Біскуп Сіповіч памёр 4 кастрычніка 1981 г. У яго асобе адыйшоў у вечнасьць апошні друйскі марыянін[43].

*Друкуецца паводле:* Браслаўскія чытанні. Браслаў, 1991.

[39] Materiały z konferencji naczelników wydziałów współurzędów wojewódzkich w sprawie polityki wyznaniowej na kresach w ministerstwie wyznań religijnych i oświecenia publicznego, 14.11.1939. Archiwum Akt Nowych w Warszawie, zespół MWRiOP, sygn. 350.

[40] Айцец Юры Кашыра бэатыфікаваны. — *А.С.*

[41] Божым Шляхам. 1957. № 76—81. С. 19; 1964. № 82. С. 5, 11; 1965. № 93. С. 20; 1966. № 98. С. 11; 1971. № 128. С. 5, 24.

[42] Архімандрыт Леў Гарошка памёр у Парыжы. Пахаваны на могілках сьв. Панкрата ў Лёндане. — *А.С.*

[43] The Journal of Byelorussian Studies. London, 1981. Vol. V. № 1. P. 5.

# Беларускі каталіцызм учора і сёньня

З гледзішча канфэсійнай структуры, насельніцтва Беларусі здаўна адрозьнівалася ад іншых усходнеславянскіх краінаў. Калі ў Расеі і Ўкраіне спаміж іх аўтахтоннага насельніцтва распаўсюдзілася ўсходняе хрысьціянства, дык у Беларусі пашыралася таксама і заходняе. Сутык абодвух гэтых культурных колаў — бізантыйскага і лацінскага — спрадвеку быў спэцыфічным чыньнікам гісторыі Беларусі, зыходным пунктам яе разнародных інтэрпрэтацыяў і палітычных інсьпірацыяў.

Разгледзім генэзу гэтай разьбежнасьці. Вядома, што ўсходняе хрысьціянства, прынятае ў 988 годзе Ўладзімерам Вялікім, паступова ахапіла ўсё рускае насельніцтва — продкаў сёньняшніх расейцаў, украінцаў і беларусаў. Аднак менш вядома, што гэтае хрысьціянства не закранула паўночна–заходніх абшараў сёньняшняй Беларусі, на якіх у першыя стагодзьдзі другога тысячагодзьдзя пераважала літоўскае паганскае насельніцтва. Хрысьціянізацыя гэтага насельніцтва пачалася толькі ў канцы XIV стагодзьдзя, за панаваньнем Ягайлы (г.зн. прыблізна на 400 гадоў пазьней за русінаў), прычым, у адрозьненьне ад апошніх, літоўскія паганцы былі ахрышчаныя ў лацінскім абрадзе.

Незалежна ад канфэсійнай сытуацыі літоўскага насельніцтва здаўна адбываўся працэс яго моўнай беларусізацыі. Гэтаму спрыяла супольная дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае, пануючая ў ім старабеларуская канцылярская мова, а на некаторых абшарах — таксама і калянізацыя полацкіх крывічоў. У выніку паўстала асаблівая сацыяльная катэгорыя — беларускамоўнае рыма–каталіцкае насельніцтва. Паводле беларускага гісторыка М. Грынблата[1], гэтае насельніцтва кампактна засяляла абшар, які на ўсходзе прыблізна сягаў лініі Горадня—Ліда—Маладэчна—возера Нарач—Браслаў—Друя, на захадзе ж супадаў зь цяперашняй беларуска–літоўскай мяжой, заходзячы за яе ў некаторых пунктах, асабліва ў раёне Вільні. На гэтым абшары мясцовае насельніцтва ня ведала царкоўнай уніі, а значыць — і даўнейшага праваслаўя, але было рыма–каталіцкім ад часу хрысьціянізацыі Літвы[2].

Большая разьбежнасьць з гэтага гледзішча існавала на ўсход ад гэтага абшару — бо тут існавала паласа мяшанага насельніцтва — літоўскага і рускага, а касьцёлы, якія паўставалі ў XV ст., перапляталіся з даўно існуючымі цэрквамі. У гэтай паласе аўтахтонны каталіцызм павялічваў сваю сфэру ўплыву коштам русінаў, аднак — на думку Грынблата — памеры гэтай канвэрсіі былі меншыя, чым прынята меркаваць. У першай фазе — у XVI—XVII ст. — яна датычыла галоўным чынам праваслаўных магнатаў Вялікага Княства Літоўскага і часткі шляхты, тады як сярод простага народу значныя зьмены адбыліся пры канцы царкоўнай уніі, калі шмат уніятаў, ратуючыся ад расейскага праваслаўя, перайшлі на лацінскі абрад.

---

[1] Грынблат Майсей (1905—1983) — беларускі этнограф, фальклярыст, гісторык. — *А.П.*

[2] Гэта не зусім так. Пра тое, што праваслаўе пранікла і на гэтыя землі, сьведчыць наяўнасьць у Горадні Барысаглебскай (Калоскай), Ніжняй (на яе месцы пабудавана Верхняя) і Прачысьценскай цэркваў XII—XIII ст. Мы ведаем, што пры Гедыміну ў Вільні меліся як храмы дамініканаў і францішканаў, так і праваслаўная Мікалаеўская царква, а пры несумненна праваслаўным гаспадару Альгерду былі пабудаваныя Прачысьценская, Пятніцкая, Траецкая і, вераемна, Сьвятадухаўская цэрквы. Зьяўленне праваслаўя на землях Дайновы, Нальшчы, Аўкштоты і Латыголі спалучана якраз з крывіцкай калянізацыяй. Пасьля Берасьцейскай царкоўнай уніі праславіліся манастыры ў Барунах, Вільні, і Горадні. Працэс навяртаньня балцкага насельніцтва ў праваслаўе спыніўся пасьля хрышчэньня яго Ягайлам. З таго часу адбывалася моўная асыміляцыя балтаў. — *А.С.*

Такім чынам, сучаснае беларускае рыма–каталіцкае насельніцтва паўстала ў выніку інтэграцыі нашчадкаў даўных літоўцаў з былымі ўніятамі. Яго колькасьць ніколі не была надта вялікай. Лічыцца, што ў сярэдзіне XIX ст. яно складала 18% жыхароў усёй Беларусі ў яе цяперашніх межах, пазьней жа — у выніку дзеяньняў царскіх уладаў і Праваслаўнай царквы — гэтая доля трохі зьменшылася і на парозе XX ст. складала каля 14%, прычым у заходняй частцы краю была значна большай. Аднак трэба падкрэсьліць, што з гэтых каталіцкіх асяродкаў у XIX і на пачатку XX ст. выйшла пераважная частка дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Апроч традыцыйнай лаціны і польскай мовы ў Рыма–каталіцкай царкве здаўна ўжывалася беларуская мова. Пра гэта сьведчаць захаваныя рукапісы XV стагодзьдзя: “Пра муку Пана Нашага, Езуса Хрыста”, “Аповесьць пра Трох Каралёў”, “Плач Маткі над Сынам”, “Пра ўваскрасеньне Хрыстова”, “Размовы Рыгора, папы рымскага”, “Імша к сьці Маткі Божай” з тлумачэньнямі і іншыя. У 1585 у Вільні выйшаў першы беларускамоўны падручнік катэхізісу[3], а ў 1681 пераклад з Тамаша Аквінскага пра насьледаваньне Хрыста[4].

Істотную ролю ў гэтай галіне адыгралі езуіты, якія ў сваіх школах, на чале зь Віленскай акадэміяй, праводзілі навучаньне беларускай мовы, вучылі рэлігійных песьняў і на гэтай мове прамаўлялі казані ў касьцёлах. У 1774 г. стараньнямі полацкіх езуітаў была выдадзеная беларускамоўная “Kantyczka”[5], а трохі пазьней — іншыя царкоўныя песьні. У гэты час, г.зн. на схіле Рэчы Паспалітай і на пачатку расейскай акупацыі, з ініцыятывы езуітаў і магілёўскага архібіскупа Богуша–Сестранцэвіча распачалося ўвядзеньне беларускай мовы ў дадатковыя набажэнствы (сьвятая імша, натуральна, адпраўлялася на лаціне).

Новая, неспрыяльная для гэтай мовы сытуацыя склалася ў XIX ст. Згодна з асноўным прынцыпам расейскіх уладаў і Праваслаўнай царквы, уся Русь — Вялікая, Малая і Белая — магла быць толькі праваслаўнай. Таму беларускі каталіцызм разглядалі як ненатуральную зьяву, нешта чужароднае, што не пасавала да схемы адзінай праваслаўнай Русі і таму падлягала альбо зьнішчэньню, альбо асыміляцыі. З гэтай прычыны выдадзены ў 1848 указ цара Мікалая I *expressis verbis*[6] забараняў ужываньне ў рыма–каталіцкіх касьцёлах расейскай мовы (гэта тычылася таксама беларускай і ўкраінскай, разгляданых як дыялекты гэтай мовы). Каталіцызм уважаўся за чужое, “замежнае” веравызнаньне, якому мусілі быць уласьцівыя іншыя мовы, не расейская — напрыклад, польская, француская, нямецкая і г.д. На падставе гэтага ўказу ўлады Віцебскай губэрні забаранялі казані на беларускай мове і загадвалі прамаўляць іх па–польску.

У гэтай сытуацыі неабходнасьць катэхізацыі на мове, зразумелай народу, схіляла царкоўныя ўлады да свайго роду канспірацыі. Пра гэта сьведчыць выдадзены ў 1862 у Варшаве новы беларускамоўны катэхізіс пад назвай “Elementarz dla dobrych dzietok katalikou”[7]. Гэтая назва, якая наводзіла на думку, што йдзецца пра звычайны падручнік чытаньня і пісаньня, мела на мэце адцягнуць увагу расейскіх уладаў ад яго сапраўднага зьместу.

Істотную зьмену пазыцыі расейскіх уладаў да Каталіцкай царквы ў Беларусі выклікала Студзеньскае паўстаньне[8]. Неўзабаве пасьля яго здушэньня ўлады перагледзелі дагэту-

---

[3] Маецца на ўвазе падручнік, выдадзены на старабеларускай мове кірыліцай езуітамі. Два ацалелыя паасобнікі гэтай кнігі захоўваюцца ў Каралеўскай бібліятэцы ў горадзе Упсала (Швэцыя) — *А.П.*

[4] Вераемна, гаворка павіннаісьці аб трактаце “Пра насьледаваньні Хрысту” (каля 1418 г.), аўтарам якога лічаць Тамаша Кемпійскага. — *А.С.*

[5] Маецца на ўвазе выданьне “Kantyczka, abo Nabożne pieśni w narzeczu połockim” (Połock: Soc. Ies., 1774). — *А.П.*

[6] Expressis verbis (лац.) — выразна, без агаворак. — *А.П.*

[7] Аўтарства гэтага выданьня прыпісваецца паплечніку Канстанціна Каліноўскага Аляксандру Аскерку (1830—1911), хоць дакладна яно не ўстаноўлена. — *А.П.*

[8] Гаворка пра паўстаньне 1863—1864 г. — *А.С.*

лешняе стаўленьне да каталіцызму як да чужога веравызнаньня і распачалі яго русіфікацыю, выходзячы з таго, што беларускія каталікі павінны стаць часткай расейскага народу, што спрыяла б іх збліжэньню з праваслаўем. Таму пачалося паляваньне на былых уніятаў, якія прынялі лацінскі абрад, выдавалася каталіцкая літаратура на расейскай мове, гэтую мову спрабавалі ўводзіць у дадатковыя набажэнствы і катэхізацыю моладзі.

З прычыны супраціву пераважнай часткі вернікаў і духавенства гэтая кампанія не дала спадзяваных вынікаў, аднак пасеяла сярод каталікоў невядомы дагэтуль недавер да беларускай мовы ў царкоўным жыцьці. Пад уплывам афіцыйнай прапаганды гэтую мову пачалі разглядаць як масток, што вядзе да русіфікацыі і праваслаўя. У гэтай ідэалягічнай барацьбе расло значэньне польскай мовы, якая разглядалася насельніцтвам як апірышча каталіцкай веры.

Гэты недавер пачаў паволі адступаць пасьля рэвалюцыі 1905 году, вынікам якой была, у ліку іншага, значная лібэралізацыя нацыянальных і канфэсійных дачыненьняў у расейскай дзяржаве. Былі скасаваныя дагэтулешнія абмежаваньні ўжываньня беларускай мовы, абвешчаны царскі маніфэст аб рэлігійнай цярпімасьці, які ўмагчымляў беларусам выбар веравызнаньня. У 1907 годзе расейскі ўрад зьвярнуўся да Апостальскай сталіцы з прапановай афіцыйна пагадзіцца на ўжываньне беларускай мовы ў Рыма–каталіцкай царкве.

Згода Ватыкана ў гэтай справе[9] адкрывала новы этап у гісторыі беларускага каталіцызму. Неўзабаве ў Духоўнай сэмінарыі ў Вільні і Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу паўсталі беларускія гурткі, якія спрычыніліся да павелічэньня колькасьці нацыянальнага духавенства. Таксама ў Вільні і ў Пецярбургу распачалася — у вялікай меры спансаваная княгіняй Магдаленай Радзівіл — беларуская каталіцкая выдавецкая дзейнасьць, якая гуртавала творчую інтэлігенцыю. Аднавіліся казані на беларускай мове ў некаторых парафіях Магілёўскай архідыяцэзіі, да чаго заахвочваў, сам даючы прыклад гэтага, біскуп (безь япархіі) Сьцяфан Данісевіч[10].

Падчас першай сусьветнай вайны беларуская мова ўваходзіла таксама ў касьцёлы Віленскай і Пінскай дыяцэзіі[11]. Гэтаму спрыяла згоднае з пазыцыяй Апостальскай сталіцы прыхільнае стаўленьне кіраўнікоў гэтых дыяцэзіяў: біскупаў Эдуарда Ропа[12], Юр'я Матулевіча[13] і Зыгмунта Лазінскага. Такім чынам, на парозе міжваеннай пары паступова складваліся ўмовы для шырокай беларусізацыі Касьцёла — было каля ста ксяндзоў–беларусаў, існавала адпаведная катэхізацыйная літаратура.

Гэтая магчымасьць была перакрэсьленая ўладамі адроджанай Польшчы, у склад якой паводле Рыскай дамовы ўвайшлі землі Заходняй Беларусі. Палітыка дзяржавы была

[9] Гэта адбылося ў 1912 г. Гл. камэнтар А. Луцкевіча "Першы крок", апублікаваны ў "Нашай Ніве" 24 траўня (6 чэрвеня) таго ж году пад крыптанімам *а-н-а*. — *А.С.*

[10] Сьцяфан Данісевіч быў апостальскім адміністратарам Магілёўскай архідыяцэзіі ў сане пралата (1903—1904, 1905—1908). Узьведзены ў сан біскупа (1908), ён — пры адсутнасьці архібіскупа — у 1909—1910 г. быў біскупам–суфраганам (вікарыем) архідыяцэзіі. — *А.С.*

[11] Гаворка павінна ісьці пра Менскую дыяцэзію, бо Пінская дыяцэзія была заснаваная ў 1925 г. — пасьля таго, як біскуп Зыгмунт Лазінскі вымушаны быў пакінуць Менск. Прабеларуская пазыцыя біскупа менскага ў літаратуры перабольшваецца. Так, напрыклад, З. Лазінскі, нягледзячы на хадайніцтва кіраўнікоў БНР, выслаў зь Менску ў Нясьвіж аднаго з актыўных праваднікоў беларусізацыі Касьцёла, сябра Рады БНР кс. Вінцэнта Гадлеўскага. Стаўшы біскупам пінскім, ён не выяўляў прыхільнасьці да беларушчыны. — *А.С.*

[12] Роп Эдвард (1851—1939) — рэлігійны дзяяч, з 1917 да пачатку 1920–х гг. — магілёўскі каталіцкі біскуп. — *А.П.*

[13] Матулевіч (Матулявічус) Юры (1871—1927) — рэлігійны дзяяч, у 1918—1925 гг. — віленскі каталіцкі біскуп. Прыхільна ставіўся да беларускага нацыянальнага руху. — *А.П.*

скіраваная на палянізацыю беларускага насельніцтва, у першую чаргу каталіцкага. Таму пачалося цкаваньне біскупа Матулевіча, які ў 1925 годзе быў вымушаны падаць у адстаўку. Ягоны наступнік архібіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі падпарадкоўваўся дзяржаўнай палітыцы, і на працягу некалькіх гадоў у касьцёлах ягонай архідыяцэзіі беларушчына была амаль цалкам зьліквідаваная. Па іроніі польская палітыка ў гэтай сфэры ў прынцыпе не адрозьнівалася ад расейскай палітыкі пасьля паўстаньня 1863 — у абодвух выпадках усё вырашаў нацыянальны эгаізм.

У гэты час у савецкай Усходняй Беларусі змаганьне ішло ўжо ня толькі з той ці іншай мовай у Царкве, але з самой Царквой увогуле. Гэтая палітыка працягвалася таксама і па вайне, цяпер ужо на заходнебеларускіх абшарах. Істотны ўплыў на аслабленьне пазыцыяў каталіцызму ў Беларусі зрабіла кампанія перасяленьня ў Польшчу, якая ахапіла каля 400 тысяч беларускіх каталікоў. У выніку, да канца 80–х гадоў там датрывалі адно нешматлікія каталіцкія парафіі.

Распад камуністычнай савецкай імпэрыі і ўзьнікненьне незалежнай Беларусі стварылі варункі для адраджэньня каталіцызму ў гэтай дзяржаве. Адначасна аднавілася пытаньне мовы ў дзейнасьці Касьцёла, якое сьпярша не прадвяшчала надзеі на бесканфліктнае разьвязаньне. З польскага боку зьявіліся погляды, што беларускія каталікі — гэта папросту палякі, таму і Касьцёл павінен прамаўляць да іх па–польску. Рэальнай падтрымкай гэтай канцэпцыі стаў выезд некалькіх дзясяткаў польскіх ксяндзоў у апошнія гады на працу ў Беларусь. Гэта выклікала супрацьдзеяньне з боку беларускіх каталіцкіх дзяячоў. Зноў зьявіліся абвінавачаньні ў польскай экспансіі і імкненьні палянізаваць частку беларускага народу.

Аднак эскаляцыі нацыянальных жарсьцяў запабягае пазыцыя касьцельнай герархіі ў Беларусі, якая імкнецца выкарыстоўваць у душпастырскай працы як польскую, так і беларускую мову, да чаго гатовая значная частка ксяндзоў — ня толькі мясцовых, але таксама і прысланых з Польшчы. Пакуль цяжка ацэньваць гэтае пытаньне ў статыстычных катэгорыях, аднак не падлягае сумневу, што беларуская мова паступова здабывае ўсё большае значэньне ў касьцёле, уплываючы тым самым на зьмену гістарычна сфармаванага стэрэатыпу, што Бог разумее толькі па–польску.

Нягледзячы на ўсе цяжкасьці, поступ беларушчыны ў Каталіцкай царкве сёньня значна большы, чым у Праваслаўнай царкве, якая ў Беларусі налічвае найбольш вернікаў.

*Пераклад зроблены паводле:* Ład. 13.12.1992.

# Фармаваньне сеткі рыма–каталіцкіх парафіяў на Беларусі ў 1387—1781 г.

Да падзелаў Рэчы Паспалітай на Беларусі не было адзінай тэрытарыяльнай структуры Рыма–каталіцкага касьцёла (лацінскага абраду). Парафіі гэтага Касьцёла належалі да трох цэнтраў касьцельнай адміністрацыі — Віленскай, Луцкай і Смаленскай дыяцэзій. Такім чынам, не выпадкова прадметам дасьледаваньняў стала гісторыя касьцёлу ў асобных яго дыяцэзіях, якія ахоплівалі як беларускія, так і літоўскія, расейскія і ўкраінскія землі. У наш час пасьля ўтварэньня папам Янам Паўлам II Менска–Магілёўскай мітраполіі, якая ахоплівае ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі, насьпела патрэба дасьледаваць гісторыю гэтай касьцельнай правінцыі.

У сувязі з гэтым істотнае значэньне мае карціна фармаваньня парафіяльнай сеткі на беларускіх землях у часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Гэта зыходны пункт як для дасьледаваньняў, якія адносяцца да пазьнейшых гістарычных пэрыядаў, так і для фармуляваньня ацэнак і высноваў, заснаваных на сапраўдным становішчы Касьцёла да падзелаў Рэчы Паспалітай.

Гэтую задачу аблягчаюць апублікаваныя вынікі архіўных дасьледаваньняў, праведзеных Янам Курчэўскім[1], Станіславам Літаком[2], Ежы Ахманскім[3]. Прыведзеных гэтымі дасьледчыкамі падрабязных дадзеных дастаткова для ілюстрацыі разьвіцьця парафіяльнай сеткі на Беларусі ў разгляданым акрэсе — зразумела, за выняткам тых парафіяў, якія знаходзяцца на тэрыторыі суседніх дзяржаваў.

Вынікі дасьледаваньняў прыведзены ў табліцы, якая ілюструе фармаваньне парафіяльнай сеткі ў падзеле на дэканаты. Гэты падзел, што ажыцьцяўляўся ў Луцкай дыяцэзіі ў канцы XVI ст., а ў Віленскай, мажліва, у палове XVII ст., ня быў, аднак, стабільным, бо зь цягам часу адбываліся зьмены ў прыналежнасьці парафіяў да дэканатаў. І таму, каб забясьпечыць тэрытарыяльнае супастаўленьне дэканатаў, была зроблена перагрупоўка парафіяў адпаведна з парафіяльнай структурай дэканатаў, якая дзейнічала ў 1781 г., — г.зн. у апошнім годзе разгляданага пэрыяду.

Пасьлядоўнае пералічэньне парафіяў у падзеле на дэканаты не было, аднак, магчымае. Пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Смаленская дыяцэзія, а таксама Аршанскі дэканат і частка Віцебскага, Бабруйскага, а таксама горад Полацак знаходзіліся ў Расейскай дзяржаве, дзе толькі ў 1798 г. была арганізавана новая касьцельная адміністрацыя. Такім чынам, парафіі на гэтай тэрыторыі ўказаны ў табліцы без падзелу на дэканаты (якія ўжо не існавалі), а зборна як “парафіі, далучаныя да Расеі ў 1772 г.”. Прыняць ранейшую за 1781 г. мяжу, не было, аднак, мэтазгодна, таму што ў тым годзе Віленская біскупская курыя ўпершыню сабрала статыстычныя зьвесткі аб колькасьці вернікаў у падпарадкаваных ёй парафіях. Гэтыя дадзеныя ў

[1] Курчэўскі Ян (1854—1917) — беларуска–польскі гісторык Рыма–каталіцкай царквы, каталіцкі ксёндз. — *А.П.*

[2] Літак Станіслаў (нар. 1932) — польскі гісторык, вывучае гісторыю Каталіцкага касьцёла ў Польшчы ў новы час. — *А.П.*

[3] Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie. Wilno, 1912; Litak S. Struktura terytorialna kościoła łacińskiego w Polsce w 1772 r. Lublin, 1980; Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu. Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972. — *Ю.Т.*

Ахманскі Ежы (нар. 1933) — польскі гісторык, прафэсар Познанскага ўнівэрсытэту. Аўтар шматлікіх працаў па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. — *А.П.*

нашых разважаньнях маюць вялікае значэньне. Зборна пададзены таксама парафіі Луцкай дыяцэзіі, якія пасьля апошняга падзелу былі ўлучаны ў склад Віленскай дыяцэзіі. Не паўплывала гэта ні ў якой ступені на дэфармацыю дасьледчых вынікаў у агульнабеларускім маштабе.

Беларусь здаўна адрозьнівалася ад іншых усходнеславянскіх краін канфэсійнаю структураю насельніцтва. У той час як у Расеі і на Украіне сярод карэннага насельніцтва распаўсюдзілася ўсходняе хрысьціянства (праваслаўнае, пазьней — часткова ўніяцкае), на Беларусі разьвілося таксама і заходняе. Стык гэтых абедзьвюх канфэсіяў і адначасова культурных колаў — бізантыйскага і лацінскага — быў спэцыфічным элемэнтам гісторыі Беларусі, зыходным пунктам разнастайных яе інтэрпрэтацыяў і палітычных інсьпірацыяў. Ён меў таксама істотны ўплыў на фармаваньне нацыянальнай сьвядомасьці яе жыхароў.

У часе хрысьціянізацыі Літвы ў лацінскім абрадзе беларускія землі былі ў вялікай ступені калянізаваныя русінамі. Русінскае засяленьне ў XIV ст., якое прасоўвалася з усходу і поўдня, паступова набліжалася да сучаснай беларуска–літоўскай мяжы, а ў ваколіцах Вільні нават перайшло яе. На ўсход ад гэтай лініі ўсё ж такі засталася шырокая зона, у якой побач з русінамі і надалей жылі літоўцы[4]. Акрамя таго, вядомыя выпадкі літоўскіх пасяленьняў на ўсходзе. Сярод літоўскага насельніцтва сапраўды праводзілася беларусізацыя, і яно прымала праваслаўе, аднак пераважная яго частка заставалася яшчэ ў паганстве.

Хрысьціянізацыя літоўцаў у лацінскім абрадзе распачалася ў 1387 г. у адпаведнасьці з наступным абяцаньнем Ягайлы ад 22 лютага 1387 г.:

> Хочучы таксама памножыць каталіцкую веру ў нашых літоўскіх і рускіх краях, з згоды і з дазволу нашых наймілейшых братоў, князёў і ўсёй шляхты літоўскай зямлі, мы вырашылі, распарадзіліся і нават прысягнулі, заручыліся і дакрананьнем да сьвятых таямніц пакляліся ўсіх радавітых літоўцаў абодвух полаў, любога становішча, прызваньня або годнасьці, якія жывуць у нашых літоўскіх і рускіх дзяржавах, да каталіцкай веры і паслушэнства Сьвятому рымскаму касьцёлу схіліць, далучыць, заклікаць, а то нават і прымусіць, незалежна ад іх веравызнаньня[5].

Мяркуючы па цытаваным дэкрэце Ягайлы, абавязак прыняцьця хрышчэньня ў лацінскім абрадзе датычыў ня толькі літоўскіх паганцаў, але таксама і тых літоўцаў, якія перш прынялі праваслаўе, а пасьля былі асыміляваныя альбо асыміляваліся з навакольным рускім насельніцтвам. Менавіта з гэтых прычынаў не маглі быць эфэктыўнымі спробы тэрытарыяльнага разьмежаваньня ўплываў каталіцызму і праваслаўя ў зьмешанай зоне, якая ахоплівае паўночна–заходнюю частку Беларусі. Існая тут спакон веку этнічная мазаіка выклікала аналягічную канфэсійную мазаіку, а каталіцкія касьцёлы часта паўставалі ў суседзтве з праваслаўнымі цэрквамі.

Дэкрэт жа Ягайлы не датычыў праваслаўных русінаў, аднак клапоцячыся аб моцы новай веры сярод літоўцаў, ён агаворваў, што ў выпадку зьмешаных шлюбаў праваслаўны бок павінен быць абавязаны да прыняцьця каталіцызму[6]. Такім чынам была прыпынена экспансія праваслаўя сярод літоўцаў, што ўсё ж такі не затрымала іх моўнай беларусізацыі. Яна рабіла лягчэйшымі сваяцкія сувязі насельніцтва на паўночным захадзе Беларусі і спрыяла пашырэньню каталіцызму сярод русінаў гэтага

[4] Гринблат М. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Минск, 1968. С. 144 і наст.; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Мінск, 1990. С. 46.
[5] Wapowski B. Dzieje Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego od roku 1380 do 1535. T. 1. Wilno, 1847. S. 75.
[6] Тамсама.

рэгіёну. Каталіцкія парафіі таксама ўтвораны і для іншых этнічных групаў — палякаў, латышоў, яцьвягаў і прусаў, аселых у часы сярэднявечча ў заходніх раёнах Беларусі[7].

З часу хрысьціянізацыі Літвы да 1500 г., г.зн. на працягу крыху больш за сто гадоў, на Беларусі ўтварылася 90 каталіцкіх парафіяў. Больш інтэнсіўна ішло будаўніцтва касьцёлаў у першай палове XVI ст., у выніку чаго каля 1550 г. агульная колькасьць парафіяў вырасла да 152. Паводле дасьледаваньняў Ежага Ахманскага, якія датычаць Віленскай дыяцэзіі, дапоўненых дадзенымі па беларускай частцы Луцкай дыяцэзіі, з агульнай лічбы 152 парафіяльных касьцёлаў 25% складалі вялікакняскія ахвяраваньні, а рэшта — магнацкія, а таксама літоўскіх і рускіх баяраў.

Трэба заўважыць, што ўтвораныя да паловы XVI ст. парафіі канцэнтраваліся галоўным чынам у літоўска–рускай зоне зьмешанага насельніцтва паміж заходняй мяжой Беларусі і лініяй Пружаны—Клецак—Менск—Іказьнь. У гэты час у паўночна–заходняй частцы краіны было 136 каталіцкіх парафіяў, г.зн. амаль 90% іх агульнай колькасьці на Беларусі. Ува ўсходняй частцы Віленскай дыяцэзіі ўтворана да паловы XVI ст. усяго толькі чатыры парафіі ў важнейшых адміністрацыйных асяродках (Полацак, Віцебск, Слуцак), а таксама для літоўскіх пасяленцаў у Абольцах каля Воршы. Істотныя зьмены на канфэсійнай карце Беларусі выклікала Рэфармацыя, дзеля якой значная, а можа быць і пераважная, частка магнатаў і шляхты пакінула сваю ранейшую прыналежнасьць да каталіцкага і праваслаўнага веравызнаньня, становячыся шчырымі прыхільнікамі новай веры. Яны апекаваліся пашырэньнем пратэстанцкіх збораў як шляхам збудаваньня новых сьвятынь, так і шляхам ператварэньня існаваўшых да таго часу касьцёлаў і цэркваў.

Паводле дасьледаваньняў Г. Мерчынга, у другой палове XVI ст. колькасьць кальвінісцкіх, лютэранскіх і арыянскіх збораў у Вялікім Княстве Літоўскім дасягнула 177, у тым ліку ў Віленскім ваяводзтве — 44, Троцкім — 32, Жмудзкім — 34, Наваградзкім — 31, Полацкім — 5, Віцебскім — 7, Берасьцейскім — 11, Менскім — 11 і Мсьціслаўскім — 2[8]. Гэтыя дадзеныя, аднак, толькі з прыватных архіваў, таму Марцэлі Косман дапускае, што агульная колькасьць парафіяў дасягала амаль 200[9]. Мяркуецца, што амаль палова гэтай колькасьці (92 зборы) была разьмешчана на беларускіх землях[10].

Аднак цяжка з дакладнасьцю вызначыць уплыў рэфармацкага руху на стан парафіяльнай сеткі Рыма–каталіцкага касьцёла на Беларусі, бо да гэтага часу не ўстаноўлена, колькі збораў узьнікла ў выніку заняцьця пратэстантамі былых касьцёлаў і цэркваў. Указаная вышэй колькасьць збораў у асобных ваяводзтвах — і асабліва нязначная іх колькасьць у Полацкім, Віцебскім і Мсьціслаўскім — дае падставы зрабіць вывады, што ў выніку Рэфармацыі сетка каталіцкіх парафіяў зьменшылася нашмат больш, чым праваслаўных, магчыма, нават напалову ў параўнаньні з 1550 г.

Хоць рэфармацкі рух і быў у роўнай ступені скіраваны супраць каталіцызму і праваслаўя, аднак яго вынікі для абедзьвюх канфэсіяў былі рознымі. У той час, калі ўва ўмовах контрарэфармацыі літоўская шляхта вярталася да каталіцызму, руская ўжо не была схільнаю вяртацца да праваслаўя і ўсё часьцей прымала каталіцызм. Гэта аказала важны ўплыў на фармаваньне і разьмяшчэньне парафіяльнай сеткі ў XVII і XVIII ст.

---

[7] Ochmański J. ... S. 86—87.

[8] Merczyng H. Zbory i senatorowie protestanty w dawnej Rzeczypospolitej Polskiej. Warszawa, 1904. S. 83—120.

[9] Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław i etc, 1973. S. 53.

[10] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мінск, 1994. С. 173.

Паводле дадзеных Віленскага сыноду, з 1669 г. у 13–ці дэканатах паўночна–заходняй часткі Беларусі, а таксама ў заходняй частцы Полацкага дэканату функцыянавалі 165 парафіяў у параўнаньні з 136 у 1550 г. У гэты час Каталіцкі касьцёл ня толькі вярнуў сабе пераважную частку сваіх сьвятыняў на гэтай тэрыторыі, страчаных у пэрыяд экспансіі Рэфармацыі, але таксама і адбудоўваў дзясяткі касьцёлаў, спаленых або спустошаных маскоўскім войскам у часе нашэсьцяў з паловы XVII ст. Акрамя таго, была завершана рэструктурызацыя ранейшай парафіяльнай сеткі шляхам ліквідацыі дробных або празьмерна ўшчыльненых парафіяў, перадачы асобных сьвятыняў для выкарыстаньня ордэнамі, а таксама шляхам іх ператварэньня ў філійныя касьцёлы.

Такім чынам, у пэрыяд з 1550 па 1669 г. на гэтай тэрыторыі было зьнесена 28 ранейшых парафіяў і ўтворана 57 новых, у выніку чаго іх сетка павялічылася на 29 парафіяў. Найбольш вырасла яна ў Полацкім дэканаце — на 7 парафіяў, Радашкавіцкім — на 6, Сьвірскім — на 5 і Наваградзкім — на 4, затое ў астатніх зьмены былі невялікія, аднолькава як на плюс, так і на мінус.

Можна меркаваць, што сфармаваная ў палове XVII ст. у паўночна–заходняй частцы Беларусі парафіяльная сетка ў асноўным адпавядала патрэбам Рыма–каталіцкага касьцёла. У далейшым, праўда, яе тэрытарыяльная структура ўсё ж удасканальвалася шляхам утварэньня адных і ліквідацыі іншых парафіяў. Аднак агульная іх колькасьць даказвала незвычайную стабілізацыю: у 1781 г. тут дзейнічала 167 парафіяў, г.зн. усяго толькі на дзьве больш, чым у 1669 г. Гэта сьведчыць, што прыняцьце царкоўнай уніі (1596 г.) ня выклікала значнай тэрытарыяльнай экспансіі лацінскага Касьцёла на гэтай тэрыторыі.

Але ў той час значна пашырылася сетка каталіцкіх парафіяў у паўднёва–ўсходнім рэгіёне Беларусі, у якім да канца XVI ст. пераважала праваслаўе. У той час, калі ў 1550 г. тут існавала толькі 16 парафіяў, то ў 1669 г. іх колькасьць узрасла да 67, у 1774 г. — да 77, і пасьля гэтага аж да першага падзелу Рэчы Паспалітай значных зьменаў не было. Такая тэндэнцыя была характэрнай для ўсіх рэгіёнаў гэтай тэрыторыі, аднак жа наймацней яна праяўлялася на ўсходніх межах Віленскай дыяцэзіі — у Віцебскім, Аршанскім і Бабруйскім дэканатах, у якіх колькасьць парафіяў узрасла з чатырох у 1550 г. па меншай меры да 51 у 1781 г. У той час у беларускай частцы Луцкай дыяцэзіі павялічылася яна ўдвая — да 25 парафіяў, і адна парафія была створана ў Смаленскай дыяцэзіі (у Забелах).

Разьвіцьцё парафіяльнай сеткі на поўдні і на ўсходзе Беларусі было выклікана галоўным чынам канфэсійнай трансфармацыяй тамтэйшай рускай шляхты. Пасьля ўпадку Рэфармацыі не прываблівала яе ані ранейшае праваслаўе, ані каталіцызм усходняга абраду (Унія), пераважна трактаваны як “мужыцкая вера”, які па сваёй сутнасьці не адрозьніваўся з гледзішча рытуальнасьці ад ранейшага праваслаўя. Затое жаданай альтэрнатывай станавіўся лацінскі каталіцызм як з увагі на яго характар пануючага дзяржаўнага веравызнаньня, так і на асьветную дзейнасьць Касьцёла, якая стварала пэрспэктыву інтэлектуальнага разьвіцьця шляхты.

Нэафіцкая рупнасьць магнатэрыі выявілася ў шматлікіх ахвяраваньнях на карысьць Каталіцкага касьцёла, асабліва ордэнаў, колькасьць іх на працягу XVII і XVIII ст. пастаянна ўзрастала. Паводле дасьледаваньняў польскіх гісторыкаў, у 1772 г. у паўднёва–ўсходнім рэгіёне Беларусі існавала звыш 80 мужчынскіх манаскіх сядзібаў з рознымі рэгуламі, у тым ліку ў Аршанскім дэканаце — 29, Віцебскім і ўсходняй частцы Полацкага — па 11, Бабруйскім — 13 і ў беларускай частцы Луцкай дыяцэзіі — 19[11]. Акрамя таго, было ўтворана больш дзесяці жаночых кляштараў. Найбольшыя манаскія асяродкі ўзьніклі ў Берасьці, Магілёве, Мсьціславе, Воршы, Пінску, Полацку, Віцебску і Забелах, а меншыя шматлікія манаскія асяродкі — у панскіх маёнтках. Яны разгорт-

[11] Zakony męskie w Polsce w 1792 r. T. 1. Lublin, 1972.

валі духоўную і асьветніцкую дзейнасьць, якая спрыяла каталіцызацыі і палянізацыі шляхецкай моладзі.

Дзейнасьць ордэнаў, а таксама значнае павелічэньне колькасьці касьцёлаў і капліц у маёнтках не выклікалі, аднак, значнага пашырэньня каталіцызму лацінскага абраду сярод сялянства і мяшчанства ўсходняй Беларусі і Палесься, якія ў XVII і XVIII ст. належалі ў большасьці да Ўніяцкай царквы. У вялікай ступені на гэта паўплывала выдадзеная Апостальскаю сталіцаю ў 1624 г. забарона пераходу з усходняга абраду на лацінскі без папярэдняга дазволу[12]. На самай справе забарона гэта выклікала пратэсты рускай шляхты і ёю ўсяляк абміналася, аднак жа яна павінна была ўлічвацца рыма–каталіцкім духавенствам. Таму яно магло весьці місійную дзейнасьць сярод іншаверцаў, да якіх прыпісвалі праваслаўных, аднак спробы перацягваньня ўніятаў у лацінскі абрад часта выклікалі ўмяшаньне ўніяцкага духавенства, што іншы раз заканчвалася ў касьцельных судах. Такім чынам, нягледзячы на некаторую непасьлядоўнасьць, Унія была да падзелаў Рэчы Паспалітай дзейснай перашкодай, якая затрымлівала масавую лацінізацыю сялянства і мяшчанства.

Пра вялікую розьніцу ў разьвіцьці і разьмяшчэньні парафіяльнай сеткі сьведчыць колькасьць каталікоў лацінскага абраду на паўночна–заходняй і паўднёва–ўсходняй тэрыторыі Беларусі. Ілюстрацыя гэтае зьявы суправаджаецца, аднак, пэўнымі цяжкасьцямі. Апублікаваныя Янам Курчэўскім статыстычныя зьвесткі, сабраныя ў 1781—1782 г. Віленскай біскупскай курыяй аб колькасьці парафіяў у Віленскай дыяцэзіі, не ахопліваюць той часткі дыяцэзіі, якая ў 1772 г. была далучана да Расеі[13]. Для гэтай тэрыторыі ў нас ёсьць магчымасьць выкарыстаць падрабязныя дадзеныя з паловы семдзясятых гадоў XVIII ст., апублікаваныя Мацеем Лёрэтам[14]. Яны датычаць асобаў, годных прыняцьця сьвятых сакрамэнтаў, а гэта значыць — не ахопліваюць дзяцей. У сваю чаргу прыведзеныя Янам Курчэўскім статыстычныя зьвесткі па парафіях Луцкай дыяцэзіі адносяцца найхутчэй да 1797 г., калі гэтыя парафіі былі ўлучаны ў Віленскую дыяцэзію[15]. Затое недастаткова якіх–небудзь зьвестак, што датычаць колькасьці парафіяў у Забелах Смаленскай дыяцэзіі.

Атрыманьне вынікаў пры супастаўленьні зьвестак па вышэйназваных тэрыторыях патрабавала б дадатковай статыстычнай ацэнкі, г.зн. павелічэньня колькасьці парафіян на тэрыторыях, далучаных да Расеі, з–за дзяцей, якія яшчэ не дапускаліся да сакрамэнтаў, а таксама з прычыны зьмяншэньня колькасных паказчыкаў парафіяў Луцкай дыяцэзіі ў выніку натуральнага прыросту ў 1781—1797 г. Гэтага ня робіцца як з мэтай захаваньня аўтэнтычнасьці апублікаваных дадзеных, так і зыходзячы з таго, што павелічэньне колькасьці парафіяў, далучаных у 1772 г. да Расеі, прыблізна ўраўнаважыла б зьмяншэньне статыстычнай ацэнкі ў Луцкай дыяцэзіі, таму што ў абодвух тых рэгіёнах колькасьць каталіцкага насельніцтва была адносна невялікай і амаль аднолькавай.

Як паказана ў прыведзенай табліцы, у 1781 г. агульная колькасьць каталікоў лацінскага веравызнаньня на Беларусі складала 428,9 тыс. Гэтыя зьвесткі ня ўлічваюць парафіі ў Забелах Смаленскай дыяцэзіі і чатырох парафіяў у Бабруйскім дэканаце (Бабруйск, Багушэвічы, Давыд–Гарадок, Карпілаўка), якія, можа, не працавалі або не падалі ў Віленскую курыю дадзеных аб сваім колькасным складзе. Гэта значыць, што на ўсякі выпадак трэба было б нязначна павялічыць агульную ацэнку да 430—440 тыс. асобаў.

Гэтае насельніцтва жыло перш за ўсё ў паўночна–заходняй частцы Беларусі — у Брас-

---

[12] Encyklopedia Kościelna. T. 16. Warszawa, 1885. S. 626.

[13] Kurczewski J. ... S. 286.

[14] Loret M. Kościoł katolicki a Katarzyna II: 1772—1784. Kraków—Warszawa, 1910. S. 200.

[15] Kurczewski J. ... S. 313.

лаўскім, Гарадзенскім, Лідзкім, Менскім, Наваградзкім, Ашмянскім, Радашкавіцкім, Радунскім, Ружанскім, Слонімскім, Сьвірскім, Віленскім, Ваўкавыскім дэканатах і заходняй частцы Полацкага[16]. На гэтай тэрыторыі, якая складае прыблізна 20% тэрыторыі сучаснай Беларусі, знаходзілася амаль 70% парафіяў і каля 84% каталікоў лацінскага абраду.

Каталіцызм, які ўзьнік тут на аснове балцкага субстрату, быў гэтак жа, як і праваслаўе, аўтахтонным веравызнаньнем часткі ўсіх грамадзкіх пластоў. Ён, праўда, павялічваў свае ўплывы ў выніку індывідуальных канвэрсіяў праваслаўнай або ўніяцкай шляхты, а таксама праз зьмешаныя шлюбы, што, аднак, у той пэрыяд не выклікала значных зьменаў у канфэсійнай структуры насельніцтва. Гэта была важная акалічнасьць, якая ўплывала на абмежаванае павелічэньне парафіяльнай сеткі ў XVII і XVIII ст., што не парушала пазыцыяў Праваслаўнай і Уніяцкай цэркваў. Каталіцкія парафіі, якія былі на гэтай тэрыторыі, налічвалі ў 1781 г. у сярэднім звыш 2180 вернікаў і, такім чынам, былі здольныя да самастойнага функцыянаваньня.

Іншая сытуацыя сфармавалася ў паўднёва–ўсходнім рэгіёне Беларусі. Тут лацінскі каталіцызм вырас на глебе ўсходняга хрысьціянства і, такім чынам, ня быў аўтахтонным веравызнаньнем. Ён, ахапіўшы вялікую частку мясцовай шляхты і нешматлікіх польскіх пасяленцаў[17], ня змог, аднак, у значнай ступені замацавацца ў асяродзьдзі сялянства і часткова гараджан. Лацінізацыя шляхты парушыла традыцыйнае сацыяльна–культурнае адзінства на гэтай тэрыторыі, што асабліва ў XVII ст. стала прычынай неаднаразовых канфліктаў, невядомых на паўночным захадзе Беларусі.

Гэтыя акалічнасьці абумовілі значна слабейшы статыстычны стан пазыцыі Рымакаталіцкага касьцёла на ўсходзе й поўдні. На гэтую тэрыторыю, якая ахоплівае частку пакінутых у Рэчы Паспалітай пасьля першага падзелу Бабруйскага і Віцебскага дэканатаў, усходнюю частку Полацкага, парафіі, далучаныя да Расеі, а таксама прыналежныя да Луцкай дыяцэзіі, і якая складала каля 75% тэрыторыі Беларусі, прыпадала каля 30% усіх парафіяў і няпоўныя 16% каталікоў лацінскага абраду. У сярэднім парафіі былі тут нашмат меншыя, чым на паўночным захадзе, колькасьць вернікаў складала 885 асобаў, пры гэтым колькасны склад паловы парафіяў не перавышаў 500 асобаў. Дэканаты ахоплівалі вялікія тэрыторыі, што зводзіла нагляд за дзейнасьцю парафіяльнага духавенства ў лепшым выпадку да большых гарадоў.

Доля каталіцкага насельніцтва лацінскага абраду (430—440 тыс.) у тагачаснай канфэсійнай структуры насельніцтва Беларусі складала 14—15%[18]. З гэтага пункту гледжаньня таксама мела месца вялікая рэгіянальная неаднароднасьць. На падставе статыстычных дадзеных з паловы і канца XIX ст. можна меркаваць, што ў прылеглых да літоўскай мяжы Браслаўскім, Лідзкім, Ашмянскім, Радунскім і Сьвірскім дэканатах каталікі складалі пераважную частку насельніцтва[19]. Колькасьць іх паступова зьмяншала-

---

[16] Тагачасны Полацкі дэканат займаў шырокі абшар — ад Будслава і Дунілавіч на захадзе амаль да мяжы з Расеяй на паўночным усходзе. Больш за 2/3 каталіцкага жыхарства гэтага дэканату канцэнтравалася ў яго заходняй частцы (парафіі Докшыцы, Даўгінаў, Дзісна, Глыбокае, Лучай, Парафіянава, Ваўкалата, Задарожжа і Захацьце).

[17] Пра польскіх пасяленцаў у Беларусі гл.: Werenicz W. Historyczne i kulturalne podstawy świadomości narodowej Polaków w Związku Radzieckim (na przykładzie Republiki Białoruskiej) // Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine: The Foundations of Historical and Cultural Traditions in East Central Europe. Lublin—Rome, 1994. S. 446.

[18] Падлічана ў адносінах да ўсяго насельніцтва Беларусі, прынятага за 3 млн. (гл.: Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мінск, 1994. С. 267).

[19] Афанасьев Д. Ковенская губерния. Петербург, 1861. С. 304; Корева А. Виленская губерния. Петербург, 1861. С. 314—318; Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. Петербург, 1903—1905.

ся ўва ўсходнім і паўднёвым напрамку, даходзячы ўсяго да некалькіх адсотках над Дняпром і Прыпяцьцю.

**Каталіцкія парафіі лацінскага абраду на Беларусі** [a]

| | 1500 | 1550 | 1669 | 1744 | 1781 | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **А. Паўночна–заходні абшар** | | | | | парафіі | парафіяне |
| **Ашмянскі дэканат** | | | | | | |
| Астравец | + | + | + | + | + | 3351 |
| Старая Ашмяна | + | + | – | – | – | – |
| Новая Ашмяна | + | + | + | + | + | 5609 |
| Багданава | – | + | – | – | – | – |
| Валожын | + | + | – | – | – | – |
| Варняны | + | + | + | + | + | 2312 |
| Гальшаны | + | + | + | + | + | 4046 |
| Гервяты | – | + | + | + | + | 1307 |
| Граўжышкі | + | + | + | + | + | 1466 |
| Гудагай | – | – | – | – | + | 1967 |
| Данюшава | + | + | + | – | + | 1466 |
| Жупраны | – | + | + | + | + | 2668 |
| Крэва | + | + | + | + | + | 2286 |
| Лоск | + | + | + | + | + | 621 |
| Саковічы | – | + | – | – | – | – |
| Смургоні | – | + | + | + | + | 1376 |
| Солы | – | + | + | + | + | 2305 |
| Сурвілішкі | + | + | + | + | + | 1091 |
| Трабы | + | + | + | + | + | 2237 |
| Цыцын | – | – | + | + | – | – |
| Разам | 12 | 18 | 15 | 14 | 15 | 34108 |
| **Браслаўскі дэканат** | | | | | | |
| Браслаў | + | + | + | + | + | 2640 |
| Відзы | + | + | + | + | + | 8410 |
| Друя | – | – | + | + | + | 3163 |
| Дрысьвяты | – | + | + | + | + | 4892 |
| Іказьнь | + | + | + | + | + | 4915 |
| Мёры | – | – | – | + | + | 1527 |
| Опса | – | – | – | – | + | 1821 |
| Пеліканы | – | – | – | – | + | 1480 |
| Пагост | – | – | + | – | + | 842 |
| Пашуменьне | – | – | – | – | + | 764 |
| Разам | 3 | 4 | 6 | 6 | 10 | 30454 |

a) знак “+” паказвае на тое, што парафія існавала ў гэтым годзе;
знак “–” паказвае, што парафія не існавала;
знак “*” паказвае на адсутнасьць дадзеных.

У табліцы ня ўлічаны непарафіяльныя касьцёлы (законныя і філійныя), а таксама капліцы.

b) падлікі аўтара;

c) частка дэканату засталася ў Рэчы Паспалітай пасьля I падзелу.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Ваўкавыскі дэканат** | | | | | | |
| Ваўкавыск | – | + | + | + | + | 3068 |
| Волпа | + | + | + | + | + | 1330 |
| Вялікая Бераставіца | – | – | + | + | + | 750 |
| Гнёзна | – | + | + | + | + | 525 |
| Крамяніца | – | – | + | + | + | 5102 |
| Лунная | – | + | + | + | + | 1590 |
| Мачульна | – | + | – | – | – | – |
| Мсьцібава | + | + | – | + | + | 2018 |
| Пятухова | – | – | + | – | – | – |
| Рось | – | – | + | + | + | 1130 |
| Рэпля | – | – | + | + | + | 915 |
| Сьвіслач | – | + | + | + | + | 1100 |
| Струбніца | – | + | + | + | + | 1388 |
| Шыдлавічы | – | + | + | + | + | 2260 |
| Разам | 2 | 9 | 12 | 12 | 12 | 21176 |
| **Віленскі дэканат** | | | | | | |
| Гудзінішкі | – | – | + | + | + | 4876 |
| Разам | – | – | 1 | 1 | 1 | 4876 |
| **Гарадзенскі дэканат** | | | | | | |
| Адэльск | + | + | + | + | + | 4319 |
| Гожа | + | + | + | + | + | 3065 |
| Горадня I | + | + | + | + | + | 8000 |
| Горадня II | – | – | – | + | + | 3130 |
| Азёры | – | – | – | + | + | 1294 |
| Індура | – | + | + | + | + | 2252 |
| Квасоўка | – | – | + | + | + | 1136 |
| Котра | – | + | – | – | – | – |
| Малая Бераставіца | – | + | + | + | + | 662 |
| Пераваліка | – | – | + | – | – | – |
| Сапоцкін | – | – | – | + | – | – |
| Эйсмонты | – | – | + | + | + | 2561 |
| Ярніны | – | – | – | + | + | 1294 |
| Разам | 3 | 6 | 8 | 10 | 10 | 27219 |
| **Лідзкі дэканат** | | | | | | |
| Беліца | + | + | – | + | + | 1734 |
| Белагруд | – | – | + | + | + | 1727 |
| Васілішкі | + | + | + | + | + | 3821 |
| Восава | – | – | – | – | + | 2388 |
| Вялікая Вавёрка | + | + | + | + | – | – |
| Гарадно | – | – | + | + | – | – |
| Дакудава | – | + | – | – | – | – |
| Дзебрава | – | – | – | – | + | 421 |
| Дылева | – | – | + | + | – | – |
| Жалудок | + | + | + | + | + | 5962 |
| Жырмуны | + | + | + | + | + | 2283 |
| Забалоцьце | – | – | + | + | + | 2762 |
| Ельня | + | + | + | – | – | – |
| Ішчална | – | + | + | + | + | 1255 |
| Камёнка | – | – | + | + | + | 965 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Крупа | + | + | – | – | – | – |
| Ляцак | – | + | + | + | + | 1970 |
| Ліда | + | + | + | + | + | 5662 |
| Малая Вавёрка | + | + | – | – | – | – |
| Няцеч | – | – | – | + | + | 1773 |
| Новы Двор | + | + | – | + | + | 1833 |
| Пеляса | – | + | – | – | – | – |
| Ражанка | – | + | + | + | + | 1706 |
| Шчучын | + | + | – | + | + | 598 |
| Ятвеск | – | – | + | + | + | 220 |
| Разам | 11 | 16 | 15 | 18 | 17 | 37080 |
| **Менскі дэканат** | | | | | | |
| Вішнева | + | + | + | + | + | 2109 |
| Волма | + | + | + | + | + | 5956 |
| Дзераўно | – | – | + | + | – | – |
| Доры | + | + | – | – | – | – |
| Забярэзьзе | + | + | + | + | + | 850 |
| Івянец | – | + | + | + | + | 3850 |
| Камень | + | + | + | + | + | 3388 |
| Кандратовічы | – | + | – | – | – | – |
| Койданава | + | + | + | + | + | 5565 |
| Ласокіна | + | + | – | – | – | – |
| Магільна | – | + | – | – | – | – |
| Менск | – | + | + | + | + | 6140 |
| Налібокі | + | + | + | + | – | – |
| Пяршаі | – | + | + | + | + | 2120 |
| Пухавічы | – | – | – | + | – | – |
| Ракаў | – | – | + | + | + | 2300 |
| Стоўпцы | – | – | + | + | + | 847 |
| Узда | – | – | – | + | + | 1122 |
| Холхлава | + | + | + | + | + | 1052 |
| Яршэвічы | – | + | – | – | – | – |
| Разам | 9 | 15 | 13 | 15 | 12 | 35299 |
| **Наваградзкі дэканат** | | | | | | |
| Вароньча | – | – | – | – | + | 947 |
| Ішкальдзь | + | + | + | + | + | 1198 |
| Клецак | + | + | + | + | + | 254 |
| Ліпа | + | + | + | + | – | – |
| Лотва | + | + | – | – | – | – |
| Ляхавічы | – | + | + | + | + | 2298 |
| Магілянка | – | + | – | – | – | – |
| Мікалаеўшчына | – | – | + | + | + | 1147 |
| Мір | – | + | + | + | + | 1024 |
| Нядзьведзіца | – | – | + | + | + | 1924 |
| Наваградак | + | + | + | + | + | 1898 |
| Нягневічы | – | – | – | + | + | 369 |
| Нясьвіж | + | + | + | + | + | 5820 |
| Сваятычы | – | – | + | + | + | 2485 |
| Сянно | – | – | + | + | – | – |
| Сноў | – | – | + | + | + | 1000 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сьвержань | – | – | + | + | + | 1472 |
| Усялюб | + | + | + | + | + | 1135 |
| Разам | 7 | 11 | 14 | 15 | 14 | 22971 |
| **Полацкі дэканат** | | | | | | |
| Вольберавічы | – | – | + | – | – | – |
| Ваўкалата | – | + | + | + | + | 2740 |
| Даўгінаў | – | + | + | + | + | 2301 |
| Дзісна | – | – | + | + | + | 1288 |
| Докшыцы | – | – | + | + | + | 1412 |
| Дуніловічы | + | + | + | + | + | 2483 |
| Глыбокае | – | – | + | + | + | 2738 |
| Загацьце | – | – | – | – | + | 744 |
| Задарожжа | – | – | + | + | + | 1213 |
| Лучай | – | – | – | – | + | 2436 |
| Параф’янова | – | – | + | + | + | 1377 |
| Сервеч | – | – | + | + | – | – |
| Разам | 1 | 3 | 10 | 9 | 10 | 18732 |
| **Радашкавіцкі дэканат** | | | | | | |
| Альковічы | – | – | – | – | + | 830 |
| Астрошыцы | + | + | – | – | – | – |
| Беніца | – | – | + | – | – | – |
| Вязынь | – | + | – | – | – | – |
| Гайна | + | + | + | + | + | 1976 |
| Гарадзілаў | + | + | + | + | + | 645 |
| Груздаў | + | + | + | + | + | 263 |
| Дубровы | – | + | + | – | – | – |
| Заслаўе | – | – | + | + | + | 1899 |
| Зэмбін | – | – | + | + | + | 544 |
| Ільля | – | – | + | + | + | 1289 |
| Корань | – | – | + | + | + | 1615 |
| Краснае Сяло | + | + | + | + | + | 1875 |
| Лагойск | – | – | + | + | + | 699 |
| Лебядзеў | + | + | + | + | + | 591 |
| Маладэчна | + | + | + | – | – | – |
| Маркаў | – | – | + | + | + | 611 |
| Палачаны | – | – | + | – | – | – |
| Радашкавічы | + | + | + | + | + | 2297 |
| Сівіца | – | + | – | – | – | – |
| Хатаевічы | – | – | + | + | – | – |
| Хожаў | + | + | + | + | + | 4911 |
| Разам | 9 | 12 | 18 | 14 | 14 | 20045 |
| **Радуньскі дэканат** | | | | | | |
| Беняконі | – | – | + | + | + | 2977 |
| Вярэна | – | + | + | + | + | 889 |
| Геранёны | + | + | + | + | + | 2134 |
| Германішкі | – | + | + | + | + | 1502 |
| Дуды | – | – | + | – | – | – |
| Дворышча | – | – | + | – | – | – |
| Жыгмунцішкі | + | + | + | – | – | – |
| Іўе | + | + | + | + | + | 5583 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ліпнішкі | – | + | + | + | + | 4187 |
| Нача | – | + | + | + | + | 4254 |
| Радунь | – | + | + | + | + | 5305 |
| Суботнікі | + | + | + | + | + | 2407 |
| Тракелі | + | + | + | + | + | 2814 |
| Разам | 5 | 10 | 13 | 10 | 10 | 32052 |
| **Ружанскі дэканат** | | | | | | |
| Альшэва | – | – | + | + | + | 197 |
| Гарадзішча | – | – | – | – | + | 403 |
| Дзярэчын | – | – | + | + | + | 1121 |
| Вялікая Зэльва | + | + | + | + | + | 577 |
| Малая Зэльва | + | + | – | – | – | – |
| Івацэвічы | – | + | + | + | – | – |
| Косава | – | + | + | + | + | 370 |
| Лагішын | – | – | + | + | + | 154 |
| Луконіца | – | + | + | + | + | 1237 |
| Лыскаў | – | + | + | + | + | 700 |
| Масты | – | + | + | + | + | 1010 |
| Міжрэчча | – | + | + | + | + | 2294 |
| Падароск | – | + | – | – | – | – |
| Поразава | + | + | + | + | + | 4343 |
| Ружаны | – | + | + | + | + | 550 |
| Разам | 3 | 11 | 12 | 12 | 12 | 12956 |
| **Сьвірскі дэканат** | | | | | | |
| Быстрыца | + | + | + | + | + | 1663 |
| Войстам | + | + | + | + | + | 3662 |
| Жодзішкі | – | + | + | + | + | 2125 |
| Задзева | – | – | + | + | + | 3053 |
| Кабыльнік | + | + | + | + | + | 2887 |
| Камаі | – | – | + | + | + | 4840 |
| Касьцяневічы | – | – | + | + | + | 1416 |
| Куранец | – | + | + | + | + | 585 |
| Лынтупы | + | + | + | + | + | 4170 |
| Міхалішкі | – | – | + | + | + | 1843 |
| Мядзел | + | + | + | + | + | 1467 |
| Мядзел Стары | – | – | – | + | + | 616 |
| Нястанішкі | + | + | + | + | + | 2878 |
| Паставы | – | + | + | + | + | 1986 |
| Рабунь | – | – | + | – | – | – |
| Сьвір | + | + | + | + | + | 8573 |
| Сьвіраны | – | + | + | + | + | 6028 |
| Разам | 7 | 11 | 16 | 16 | 16 | 47792 |
| **Слонімскі дэканат** | | | | | | |
| Вялікае Гарадзішча | + | + | + | + | + | 664 |
| Малое Гарадзішча | – | + | – | – | – | – |
| Дарава | – | + | + | + | + | 1715 |
| Дварэц | – | + | + | + | + | 1255 |
| Задзьвея | – | – | + | + | + | 679 |
| Зьдзітаў | + | + | + | + | + | 3504 |
| Косічы | – | + | – | + | – | – |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Крошын | + | + | + | + | + | 1409 |
| Крывошын | – | – | – | – | + | 1496 |
| Ліпск | – | – | – | + | – | – |
| Молчадзь | + | + | + | + | + | 376 |
| Мыш | – | – | + | + | + | 698 |
| Палонка | + | + | + | + | + | 296 |
| Раготна | + | + | + | + | + | 980 |
| Слонім | + | + | + | + | + | 2546 |
| Showraeльня | – | – | – | + | + | 640 |
| Сваловічы | – | – | + | + | + | 651 |
| Разам | 7 | 11 | 12 | 15 | 14 | 16909 |
| **Разам абшар паўночна–заходні** | **79** | **136** | **165** | **167** | **167** | **361669** |
| | | | | | | |
| **B. Абшар паўднёва–ўсходні** | | | | | | |
| **Бабруйскі дэканат** | | | | | | |
| Азяраны | – | – | – | – | + | 432 |
| Бабруйск | – | – | + | + | * | * |
| Багушэвічы | – | – | + | + | * | * |
| Бярэзіна | – | – | + | + | + | 811 |
| Глуск | – | – | + | + | + | 500 |
| Давыд–Гарадок | – | – | + | + | * | * |
| Ігумен | – | – | + | – | – | – |
| Капыль | – | – | + | + | – | – |
| Карпілаўка | – | – | – | + | * | * |
| Лахва | – | – | – | – | + | 3000 |
| Мазыр | – | – | + | + | + | 288 |
| Петрыкаў | – | – | + | + | + | 470 |
| Рэчыца | – | – | + | + | + | 143 |
| Слуцак | + | + | + | + | + | 3021 |
| Стрэшын | – | – | + | – | – | – |
| Цімкавічы | – | – | + | + | + | 691 |
| Разам | 1 | 1 | 13 | 12 | 9 | 9356 |
| **Віцебскі дэканат** | | | | | | |
| Барысаў | – | – | + | + | + | 660 |
| Бешанковічы | – | – | + | + | + | 355 |
| Бобр | – | – | + | + | + | 490 |
| Лукамля | – | – | + | + | + | 435 |
| Руднае Сяло | – | – | + | + | – | – |
| Халопенічы | – | – | + | + | – | – |
| Чарэя | – | – | + | + | + | 460 |
| Разам | – | – | 7 | 7 | 5 | 2400 |
| **Полацкі дэканат, усходняя частка**[c] | | | | | | |
| Бярэзіна | – | – | + | – | – | – |
| Кублічы | – | – | + | + | + | 2311 |
| Лепель Новы | – | – | + | + | + | 1055 |
| Палюдовічы | – | – | – | – | + | 1167 |
| Рукшэніца | – | – | – | – | + | 652 |
| Екімань | – | – | – | – | + | 975 |
| Разам | – | – | 3 | 2 | 5 | 6160 |
| | | | | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Парафіі Луцкай дыяцэзіі** | | | | | | |
| Безьдзеж | – | – | – | + | + | 510 |
| Берасьце | + | + | + | + | + | 2164 |
| Брашэвічы | – | – | + | + | + | 245 |
| Бяроза | + | + | + | + | + | 1257 |
| Вярховічы | – | – | + | + | + | 288 |
| Вістыча | + | + | + | + | + | 624 |
| Воўчын | – | – | + | + | + | 157 |
| Высокае | + | + | + | + | + | 733 |
| Гарадзец | – | – | + | + | + | 472 |
| Драгічын | – | – | – | + | + | 415 |
| Дзівін | – | – | – | + | + | 400 |
| Зьбірогі (Зьбірагі) | – | – | + | + | + | 379 |
| Камянец | – | + | + | + | + | 1000 b |
| Півацічы | – | – | + | + | + | 1258 |
| Кобрын | + | + | + | + | + | 1970 |
| Крупчыцы | – | – | – | + | + | 725 |
| Марозавічы | – | + | + | + | + | 151 |
| Пінск | + | + | + | + | + | 3000 b |
| Пружаны | – | + | + | + | + | 1368 |
| Сягневічы | – | + | + | + | + | 1471 |
| Сялец | + | + | + | + | + | 1634 |
| Ставы | – | – | – | + | + | 427 |
| Чарнаўчыцы | – | – | + | + | + | 1861 |
| Шарашова | – | + | + | + | + | 1229 |
| Янаў | – | – | – | + | + | 417 |
| Разам | 7 | 12 | 19 | 25 | 25 | 24155 |
| **Парафіі, далучаныя да Расеі ў 1772 г.** | | | | | | |
| Аболыцы | + | + | + | + | + | 574 |
| Амсьціслаў | – | – | + | + | + | 1530 |
| Астроўна | – | – | + | + | + | 600 |
| Беліца | – | – | + | + | + | 320 |
| Быхаў | – | – | + | + | + | 350 |
| Бялынічы | – | – | + | + | + | 1600 |
| Вародзькаў | – | – | – | + | + | 200 |
| Віцебск | + | + | + | + | + | 5184 |
| Ворша | – | – | + | + | + | 1542 |
| Вуглы | – | – | + | – | – | – |
| Гомель | – | – | + | + | + | 1670 |
| Горы–Горкі | – | – | + | + | + | 235 |
| Дуброўня | – | – | + | + | + | 112 |
| Журавічы | – | – | – | + | + | 254 |
| Забялы | – | – | – | + | + | – |
| Кадзіна | – | – | – | + | + | 512 |
| Княжыцы | – | – | – | + | + | 153 |
| Копысь | – | – | – | – | + | 65 |
| Крупкі | – | – | + | – | – | – |
| Крычаў | – | – | – | – | + | 1000 |
| Магілёў | – | – | + | + | + | 2345 |
| Маляцічы | – | – | – | + | + | 400 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мазыкі | – | – | – | + | + | 1000 |
| Мікулін | – | – | – | + | + | 382 |
| Непароты | – | – | – | + | + | 200 |
| Новы Быхаў | – | – | + | – | – | – |
| Пацкова | – | – | – | + | + | 300 |
| Полацак | + | + | + | + | + | 2602 |
| Раманава | – | – | – | – | + | 280 |
| Саколіна | – | – | + | – | – | – |
| Смаляны | – | – | + | + | + | 118 |
| Сорыца | – | – | + | + | – | – |
| Старое Сяло | – | – | + | + | + | 203 |
| Сянно | – | – | + | + | + | 240 |
| Фашчоўка | – | – | – | + | – | – |
| Шклоў | – | – | + | + | + | 570 |
| Талачын | – | – | + | + | + | 515 |
| Чавусы | – | – | + | + | + | 150 |
| Чэрыкаў | – | – | + | – | – | – |
| Разам | 3 | 3 | 25 | 31 | 32 | 25206 |
| **Разам абшар паўднёва–ўсходні** | **11** | **16** | **67** | **77** | **76** | **67277** |
| **Разам Беларусь** | **90** | **152** | **232** | **244** | **243** | **428946** |

*Крыніцы:*
Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912;
Litak S. Struktura terytorialna kościoła łacińskiego w Polsce w 1772 r. Lublin, 1980;
Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: ustrój i uposażenie. Poznań, 1972;
Loret M. Kościół katolicki a Katarzyna II, 1772—1784. Kraków—Warszawa, 1910.

*Друкуецца паводле:* Беларускі гістарычны агляд. 1995. Сьнежань. Т. 2. Сш. 2.

# Язэп Германовіч — сьвятар і пісьменьнік

Язэп Германовіч, сын Станіслава і Ганны з Савіцкіх, нарадзіўся 4 сакавіка 1890 г. у Гальшанах, што на Ашмяншчыне. У 1898—1902 гадох наведваў Гальшанскую народную школу, а праз наступныя чатыры гады — Ашмянскую гарадзкую вучэльню.

Юнака вабіла далейшая адукацыя, служба свайму народу, найлепшай формай якой ён лічыў сьвятарства. Таму, закончыўшы Ашмянскую вучэльню, у 1908 годзе ён пасьля неабходнай падрыхтоўкі паступіў у Віленскую каталіцкую духоўную сэмінарыю.

Гады навукі ў сэмінарыі мелі вялікі ўплыў на фармаваньне асабовасьці Германовіча. Нагадаем, гэта быў час ажыцьцяўленьня беларускага адраджэнскага руху, чаму спрыяла лібэралізацыя нацыянальнай і веравызнаўчай палітыкі расейскага ўраду пасьля рэвалюцыі 1905 г. Выходзіла “Наша Ніва”, пашыралася выдавецкая і асьветна–культурная дзейнасьць.

Адраджэнскі рух будзіў і клікаў маладых патрыётаў, салідная група якіх апынулася ў Віленскай сэмінарыі. Акрамя Язэпа Германовіча, яе студэнтамі–клерыкамі былі ў той час Вінцэнт Гадлеўскі, М. Пятроўскі, Язэп Рэшаць, Адам Станкевіч, Канстанцін Стаповіч, Андрэй Цікота, Віктар Шутовіч і іншыя. Іх намаганьнямі быў створаны ў сэмінарыі беларускі гурток зь бібліятэкай, зь якога выйшлі выдатныя дзяячы беларускага каталіцкага руху і нацыянальнага адраджэньня. Заўважым, што гэтая іх дзейнасьць знаходзіла разуменьне і падтрымку адміністратара Віленскай дыяцэзіі, ксяндза Казімера Міхалькевіча.

У 1913 г. Язэп Германовіч закончыў сэмінарыю і атрымаў сьвятарскае пасьвячэньне. З таго часу ён працаваў на парафіях на Беласточчыне, у Мсьцібаве і Вялікай Лапеніцы Ваўкавыскага павету, у Луконіцы на Слонімшчыне і Лужках на Дзісеншчыне. Усюды, дзе ён працаваў, стараўся перадаваць людзям праўду Божую ў іх роднай мове. Гэтая справа сама па сабе зусім натуральная, аднак у тую пару, асабліва пасьля далучэньня заходнебеларускіх абшараў да Польшчы, беларуская мова ў касьцёлах нярэдка выклікала неразуменьне і супраціўы, а таксама ганеньні з боку польскай адміністрацыі, якая імкнулася апалячваць беларускае каталіцкае насельніцтва.

У 1924 г. айцец Германовіч уступіў у ордэн марыянаў, якія пачыналі сваю дзейнасьць у Друі над Дзьвіной[1]. Пачаткова выконваў абавязкі пробашча Друйскай парафіі, пазьней быў магістрам навіцыяту і, акрамя таго, настаўнікам рэлігіі і лацінскай мовы ў Друйскай гімназіі. Ён быў выдатным выхаваўцам моладзі, якой прывіваў прынцыпы хрысьціянскай маралі і любоў да роднай беларускай мовы.

Аднак нядоўга давялося айцу Германовічу папрацаваць у Друі. Пасьля назначэньня ў 1925 г. Рамуальда Ялбжыкоўскага віленскім архібіскупам пад націскам адміністрацыйных уладаў пачаліся ганеньні супраць беларускіх марыянаў. У 1928 г. касьцельныя ўлады накіравалі ў далёкі Харбін айца Фабіяна Абрантовіча, а ў 1932 г. таксама і Язэпа Германовіча, якім даручана была місійная праца сярод расейскай эміграцыі.

Пасьля чатырох гадоў знаходжаньня ў Харбіне ў 1936 г. а. Германовіч вярнуўся ў Вільню і быў назначаны кіраўніком беларускага марыянскага Дому студэнта ў гэтым горадзе. Віленскі марыянскі Дом быў парасткам Друйскага кляштара, арганізаваным для падрыхтоўкі будучых сьвятароў. Аднак і ён праіснаваў нядоўга — усяго тры гады. Віленскія ўлады, якія ў 1938 г. выселілі з Друі марыянаў–беларусаў, падрыхтавалі падобны лёс выхаваўцам і студэнтам Марыянскага дому ў Вільні. Такім чынам, а. Германовіч зноў быў вымушаны пакінуць радзіму і вярнуцца ў Харбін. Тут ён працаваў да 1948 г., калі быў арыштаваны кітайскімі ўладамі і перададзены савецкім органам, якія

[1] Гл. артыкул “Да гісторыі Друйскага Марыянскага манастыра”. С. 394—400 гэтага выданьня. — *А.С.*

асудзілі яго на 25 гадоў зьняволеньня ў сібірскіх лягерох.

Пасьля шасьці з паловай гадоў лягерных пакутаў у 1955 г. а. Германовіч быў вызвалены і апынуўся ў Польшчы. Жыў у нейкім манастыры, ці не на Памор'і, і стараўся атрымаць дазвол на выезд у Рым. Тады такая справа была няпростая і патрабавала неаднаразовых хадайніцтваў і інтэрвэнцыяў у варшаўскім міністэрстве ўнутраных справаў. Падчас аднаго такога візыту ў 1959 г. айцец Германовіч заглянуў у варшаўскі аддзел Беларускага грамадзка–культурнага таварыства пры Сенарскай вуліцы. Там адбылася наша першая сустрэча.

> Калі вызвалялі нас зь лягеру, — расказваў айцец Германовіч, — начальнікі патрабавалі падаць жаданае месца далейшага пражываньня. Я адказаў: як беларус і каталіцкі сьвятар жадаю вярнуцца на Беларусь і працягваць душпастырскую працу. Начальнік з гэтым не пагадзіўся: «О, в Белоруссии таких не надо. У тебя гражданство польское[2], вот поэтому мы тебя отправим в Польшу».

Вядома, сапраўднай прычынай такога рашэньня было не грамадзянства, але ідэйная пазыцыя айца Германовіча. Як бачым, у гэтых адносінах савецкія чыноўнікі ня шмат адрозьніваліся ад сваіх польскіх калегаў міжваеннай пары. І для адных, і для другіх беларускі каталіцкі сьвятар быў аднолькава непажаданы. Даводзілася працягваць эмігранцкае бытаваньне...

Пад канец 1959 г. айцец Германовіч выехаў з Польшчы ў Рым, а неўзабаве прыбыў у лёнданскі Дом марыянаў — узгадаваны пасьля вайны новы парастак Друйскага манастыра. Тут ён памёр 26 сьнежня 1978 г. Пахаваны на могілках сьвятога Панкрата ў Лёндане.

Нягледзячы на бурлівае, нялёгкае жыцьцё, айцец Язэп Германовіч пакінуў значную літаратурную спадчыну. Пісаў пераважна пад крыптанімам В.А., псэўданімамі Вінцук Адважны, Лявон Ветрагон і іншымі. З 1919 г. друкаваўся на старонках “Krynicy”, “Biełaruskaj Krynicy”, “Chryścjanskaj Dumki” і іншых віленскіх часопісаў (допісы, гутаркі на бытавыя, маральна–этычныя і грамадзкія тэмы). Працаваў у жанрах дзіцячай паэзіі, пісаў гумарыстычныя і сатырычныя творы, займаўся перакладамі. На эміграцыі ў Лёндане цэлае дзесяцігодзьдзе (1964—1974) рэдагаваў часопіс “Божым Шляхам”.

*Асобнымі кнігамі выйшлі наступныя яго творы*[3]*:*

Jak Kaziuk sabraŭsia da spowiedzi. Вільня, 1928.
Kaziukowa žanimstwa. Вільня, 1929.
Jak Hanula źbirałasia ŭ Arhientynu. Вільня, 1930.
Adam i Anielka. Вільня. 1931.
Kaniok–Harbuniok (паводле Яршова). Вільня, 1932.
Batlejka. Вільня, 1932.
Унія на Палесьсі. Альбярцін, 1932.
Biełaruskija cymbały. Вільня, 1933.
Kazka ab rybaku i rybcy. Вільня, 1935[4].
Chłapiec. Вільня, 1935.
Hanuliny kłopaty. Вільня, 1935.
Кітай—Сібір—Масква (успаміны). Мюнхэн, 1962.
Пакутныя псальмы (пераклад вершам). Рым, 1964.
Князь і лапаць. Сучасная казка. Лёндан, 1964.
Байкі і іншыя вершы. Лёндан, 1973.

*Друкуецца паводле:* Наша вера. 1996. № 1.

---

[2] На ўвазе мелася, што да 17 верасьня 1939 г. а. Язэп быў польскім грамадзянінам. — *А.С.*
[3] У гэтым пераліку адсутнічаюць кнігі “Na daloki Ŭschod” (1937) і “Dobramu i Boh pamahaje” (1939) — *А.С.*
[4] Паводле твору А. Пушкіна. — *А.С.*

# Трагізм і загадкавасьць лёсаў. Да гісторыі беларускага каталіцкага душпастырства ў Менску

Летам 1941 г. у акупаваны немцамі Менск прыбыло некалькі беларускіх каталіцкіх сьвятароў з мэтай аднаўленьня спыненай савецкімі ўладамі душпастырскай дзейнасьці. Аднак ужо ў сьнежні галоўны ініцыятар духоўнага адраджэньня ксёндз Станіслаў Глякоўскі і яго малады памочнік ксёндз Дзяніс Малец зьніклі бясьсьледна, ксяндзы Пётар Татарыновіч і Казімер Рыбалтоўскі ратаваліся ўцёкамі. Спробы высьветліць акалічнасьці разгрому беларускага каталіцкага душпастырства і трагічнага лёсу сьвятароў, якія пасьля вайны рабіліся на эміграцыі, не далі станоўчых вынікаў. Замест іх на старонках друку зьявілася нямала выказваньняў і меркаваньняў, што часта абапіраліся на неабгрунтаваныя і супярэчлівыя чуткі.

У апошнія гады пра лёс сьвятароў, асабліва Глякоўскага, пісалася на старонках беларускіх выданьняў “Літаратура і мастацтва” (1992. № 19) і “Наша вера” (1995. № 1). Прычым абедзьве публікацыі апэлявалі да чытачоў з просьбаю дапамагчы высьветліць тое, што не было зьдзейсьнена за пасьляваенныя дзесяцігодзьдзі. Пастараемся выканаць гэтую просьбу на падставе крытычнага аналізу дакумэнтаў, матэрыялаў і ўспамінаў сьведкаў.

На пачатку артыкула мы падаем кароткія біяграфічныя зьвесткі пра згаданых сьвятароў, бо іх постаці для большасьці сёньняшніх чытачоў, хутчэй за ўсё, малавядомыя.

## Ксёндз Станіслаў Глякоўскі

Станіслаў Глякоўскі нарадзіўся ў 1896 г. у мястэчку Поразава Ваўкавыскага павету. Пасьля заканчэньня Віленскай духоўнай сэмінарыі ў 1921 г. атрымаў сьвятарскае пасьвячэньне. Дзякуючы прыхільнасьці япіскапа Юр’я Матулевіча, які спрыяў росту беларускага каталіцкага духавенства, у 1923 г. ксёндз Глякоўскі паступіў ува ўнівэрсытэт у Рыме, дзе атрымаў навуковую ступень доктара тэалягічных навук. У 1927 г. ён вярнуўся на радзіму, працаваў вікарыем у вёсцы Тжцяннэ Кнышынскага дэканату, у Ваўкавыску і пробашчам у Трычоўцы Беластоцкага дэканату.

З 1929 г. ксёндз Глякоўскі жыў і працаваў у Вільні, прыпісаны да парафіяльнага касьцёла сьвятога Яна. Ён быў прызначаны настаўнікам Закону Божага (прэфэктам) у сярэдніх школах гораду, а ў іх ліку і ў Беларускай гімназіі (1933—1939). У віленскім касьцёле сьвятога Мікалая ён часта адпраўляў набажэнствы для беларусаў і велікодныя рэкалекцыі для вучнёўскай моладзі, апекаваўся скаўтынгам у беларускай гімназіі, працаваў у камісіі дапамогі беларускай студэнцкай моладзі, выступаў з дакладамі ў Беларускім студэнцкім саюзе.

Значную ўвагу ксёндз Глякоўскі надаваў выдавецкай дзейнасьці. У сьнежні 1933 г. ён уваходзіў у склад кіраўніцтва Беларускага каталіцкага выдавецтва ў Вільні, у якім стала працаваў да вясны 1939 г., арганізуючы выпуск рэлігійнай літаратуры. Акрамя таго, у 1934—1935 г. сумесна зь Язэпам Найдзюком выдаў на свой кошт тры зборнікі Міхася Машары (“На сонечны бераг”, “Сьмерць Кастуся Каліноўскага” і “Напрадвесьні”), “Казку аб рыбаку і рыбцы” Вінцука Адважнага (ксяндза Язэпа Германовіча) і

іншыя творы. Арганізаваў і фінансаваў выпуск часопіса для дзяцей “Пралескі”[1].

Нягледзячы на непрыхільнае стаўленьне польскай адміністрацыі да беларускага каталіцкага руху, ксёндз Глякоўскі імкнуўся выкарыстоўваць розныя магчымасьці яго пашырэньня сярод беларусаў Віленскай архідыяцэзіі. З такою мэтаю ён удзельнічаў у стварэньні восеньню 1936 г. беларускай сэкцыі Каталіцкай акцыі. Але, нягледзячы на бласлаўленьне архібіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага[2], улады не дазволілі ажыцьцявіць гэтую задуму.

Восеньню 1938 г. ксёндз Глякоўскі быў прызначаны вікарыем парафіі сьвятога Яна ў Вільні, але гэтыю пасаду ён займаў нядоўга. У верасьні 1939 г. пачалася вайна, і напярэдадні акупацыі гораду Чырвонай Арміяй ён выехаў у Коўну. Аднак пасьля далучэньня Вільні да Літвы, якое адбылося ў канцы кастрычніка 1939 г., сьвятар вярнуўся ў свой горад і тут працаваў да лета 1941 г., да нашэсьця Нямеччыны на Савецкі Саюз[3].

## Ксёндз Дзяніс Малец

Дзяніс Малец нарадзіўся ў 1909 г. у вёсцы Лембаўка[4] Дунілавіцкай воласьці ў беларускай каталіцкай сям’і. Вучыўся ў Наваградку ў Ніжэйшай духоўнай сэмінарыі, якая з часам была перанесена ў Драгічын над Бугам. Пасьля яе заканчэньня паступіў у Вышэйшую духоўную сэмінарыю ў Пінску. У 1937 г. атрымаў сьвятарскае пасьвячэньне і быў прызначаны вікарыем парафіі Нараджэньня прасьвятой дзевы Марыі ў Бельску на Беласточчыне. Восеньню 1938 г. вярнуўся ў Пінск на пасаду прэфэкта гарадзкіх школаў. Пры савецкай уладзе быў вікарыем Пінскай катэдры[5].

## Ксёндз Казімер Рыбалтоўскі

Казімер Рыбалтоўскі нарадзіўся ў 1909 г. Вучыўся ў Ніжэйшай духоўнай сэмінарыі ў Наваградку, а пасьля — у Вышэйшай духоўнай сэмінарыі ў Пінску. Там у 1935 г. атрымаў сьвятарскае пасьвячэньне. У тым жа годзе быў прызначаны вікарыем у вёску Камень Івянецкага дэканату. Тут ён працаваў (зь перапынкам на лячэньне ў 1938—1939 г.) да нямецка–савецкай вайны[6].

## Ксёндз Пётар Татарыновіч

Пётар Татарыновіч нарадзіўся ў 1896 г. у вёсцы Гайнін на Случчыне[7]. Вучыўся ў духоўных сэмінарыях у Петраградзе, Менску і Ўроцлавэку (Польшча). У 1921 г. атрымаў сьвятарскае пасьвячэньне. Пасьля гэтага выконваў душпастырскія абавязкі ў розных мясцовасьцях Пінскай дыяцэзіі: у Наваградку (дзе ў 1922—1924 г. быў выкладчыкам у Ніжэйшай духоўнай сэмінарыі), Баранавічах, Дамачэве на Берасьцейшчыне (1927—1932) і Століне (1932—1938). З прычыны хваробы (сухоты) у 1939 г. быў часова звольнены ад сваіх абавязкаў. У 1940 г. ксёндз Татарыновіч уцёк з–пад савецкага арышту ў зону ня-

---

[1] Дзіцячы часопіс “Пралескі” выдаваўся ў Вільні кірыліцай і лацінкай зь лістапада 1934 па жнівень 1939 г. Станіслаў Глякоўскі быў яго выдаўцом, а рэдактарам — Зоська Верас. — *А.П.*

[2] Ялбжыкоўскі Рамуальд (1876—1955) — польскі царкоўны дзяяч, з 1926 г. віленскі мітрапаліт. — *А.П.*

[3] Catalogus ecclesiarum et cleri Archidiocesis Vilnensis, 1925—1939; Шлях Моладзі. 1933—1939; Chryścjanskaja Dumka. 1936—1939.

[4] З 1977 г. вёска Лембаўка не існуе. Знаходзілася ў Пастаўскім раёне. — *А.С.*

[5] Інфармацыя Дыяцэзійнага архіву ў Драгічыне ад 19.08.1996.

[6] Тамсама.

[7] Цяпер вёска Гайнін у Ляхавіцкім раёне. — *А.С.*

мецкай акупацыі, быў капэлянам і культурна–асьветным дзеячом сярод беларускай эміграцыі.

Падчас першай сусьветнай вайны малады клерык Татарыновіч далучыўся да беларускага нацыянальнага руху. У міжваенныя гады супрацоўнічаў зь віленскай “Chryścjanskaj Dumkaj”[8] і ўніяцкім часопісам “Да Злучэньня”[9]. Быў аўтарам папулярных кніг: “Сьвяты Ізідар хлебароб” (Вільня, 1928) і “Шляхам дзіваў і ўражаньняў (зацемкі з падарожы ў Рым)” (Вільня, 1934[10]).

* * *

У 1940 г., пры савецкай уладзе, у Вільню прыехаў малады пляменьнік ксяндза Глякоўскага Міхал Кабыляк–Гаеўскі. Да гэтага часу ён быў арганістам у Мсьцібаве пад Ваўкавыскам, цяпер жа пад апекаю дзядзькі паглыбляў сваю музычную адукацыю ў Віленскай кансэрваторыі. Паводле ягонай інфармацыі, якую ён даў аўтару гэтых радкоў, рашэньне аб аднаўленьні каталіцкага жыцьця ў Менску ксёндз Глякоўскі прыняў зараз жа пасьля заняцьця гэтага гораду нямецкай арміяй. Станіслаў Глякоўскі выяжджаў у Менск двойчы. Першы раз ён адправіўся туды сам, хутчэй за ўсё, у ліпені. Даведаўшыся пра стан менскіх касьцёлаў і магчымасьці працы, вярнуўся ў Вільню. Тут з дапамогай Вацлава Іваноўскага, старшыні віленскага Беларускага нацыянальнага камітэту, атрымаў неабходныя дакумэнты і ў жніўні 1941 г. паўторна выехаў у Менск, на гэты раз з пляменьнікам–арганістам Міхалам. Абодва спыніліся на плябаніі пры касьцёле сьвятых Сымона і Алены.

Неўзабаве да іх далучыліся маладыя сьвятары, сэмінарскія калегі Малец і Рыбалтоўскі. Апошні і раней час ад часу наведваў Менск. Крыху пазьней вярнуўся з эміграцыі ксёндз Татарыновіч. Частым госьцем быў тут уніяцкі сьвятар Вацлаў Аношка[11] зь Дзяляціцкай парафіі на Наваградчыне, які ў Менску служыў у лацінскім абрадзе. Урэшце, у кастрычніку 1941 г. сюды прыбыў з Бэрліна ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, прызначаны нямецкімі ўладамі галоўным школьным інспэктарам у генэральнай акрузе Беларусі.

У выніку захадаў духавенства, насельніцтва і падтрымкі гарадзкой управы нямецкая камэндатура гораду вярнула менскім каталікам катэдру і касьцёл сьвятых Сымона і Алены. Абедзьве сьвятыні ацалелі ад ваенных разбурэньняў, аднак патрабавалі рамонту, паколькі ў апошнія гады савецкага панаваньня набажэнствы ў іх не адбываліся. Дзеля таго быў створаны касьцельны камітэт, якім кіраваў мянчук Трыгубовіч. Дзякуючы намаганьням камітэту і вялікай ахвярнасьці менскіх каталікоў хутка былі выкананы самыя неабходныя працы і арганізаваны хор пад кіраўніцтвам арганіста Кабыляка–Гаеўскага.

На пачатку верасьня распачалася катэхізацыя першай групы моладзі і яе падрыхтоўка да сьвятой камуніі. Пасьля столькіх гадоў атэістычнай прапаганды гэта была значная і доўгачаканая падзея ў жыцьці каталікоў гораду, якая знайшла водгук у “Менскай Газэце”:

> У нядзелю 5 кастрычніка ў Менску, у каталіцкай катэдры раніцай адбылася ўрачыстасьць. У гэты дзень пасьля месячнай падрыхтоўкі прымала сьвятое прычасьце каля 200 дзяцей. Яны на працягу цэлага месяца пад кіраўніцтвам спэцыяльнага вучыцеля і ксяндзоў–беларусаў пазнавалі асновы хрысьціянскай навукі і вучылі малітвы. Выспаведаўшыся, прыгожа адзеўшыся, зь сьвечкамі ў руках, з роднай беларускай песьняй на вуснах прыступілі яны да Божага стала.

[8] “Chryścjanskaja Dumka” — беларускі рэлігійны часопіс, які выдаваўся лацінкай у 1928—1939 г. у Вільні пад рэдакцыяй ксяндза Адама Станкевіча. — *А.П.*

[9] “Да Злучэньня” — беларускі рэлігійны часопіс, які выдаваўся ў 1932—1936 г. у Альбярціне і Вільні пад рэдакцыяй А. Неманцэвіча. — *А.П.*

[10] Зьніч. № 38. 1956; Божым Шляхам. № 150. 1979.

[11] Аношка Вацлаў (1899—1966) — каталіцкі сьвятар усходняга абраду, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху.

Прыгожыя беларускія дзіцячыя сьпевы, а таксама прыгожае беларускае казаньне ксяндза доктара Ст. Глякоўскага стварылі ў катэдры прыўзьняты настрой[12].

Пачаткова дзейнасьць менскіх сьвятароў адбывалася стыхійна, без афіцыйнага афармленьня касьцельнай юрысдыкцыі. Праўда, у Латвіі знаходзіўся намінальны апостальскі адміністратар Магілёўскай мітраполіі і Менскай суфрагании біскуп Баляслаў Слосканс[13]. Аднак, нягледзячы на захады беларускага духавенства, ён ня мог аднавіць сваю функцыю без адпаведнага пагадненьня Ватыкана і дзяржаўных уладаў, а гэта было немагчыма ажыцьцявіць у тагачасных ваенных умовах.

Не бязь цяжкасьцяў укаранялася ў касьцельнай абраднасьці і беларуская мова, што зноў жа было вынікам сумных гістарычных абумоўленьняў. Наогул сумленна ацэньвала існае становішча тагачасная прэса, паводле якой найменшыя праблемы былі з маладым пакаленьнем, якое лёгка ўспрымала беларускія малітвы і рэлігійныя песьні. Цяжэй было з старэйшымі, якія прывыклі да касьцельнай пальшчызны і толькі цяпер пачыналі вучыцца малітваў і сьпеваў па–беларуску[14].

## Ксёндз доктар Язэп Рэшаць[15]

У гэтых варунках насьпела неабходнасьць выданьня для патрэбаў вернікаў адпаведнай літаратуры. З такою мэтаю ксёндз Глякоўскі падрыхтаваў да друку “Кароткі малітаўнік для беларусаў–каталікоў”. Гэта быў скарочаны варыянт даваеннага віленскага малітаўніка “Hołas Dušy”. Ён вырашыў таксама перавыдаць “Кароткі катэхізм для беларусаў–каталікоў” ксяндза доктара Язэпа Рэшаця. Віленскія выданьні гэтых кніжак былі ў свой час ухваленыя архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім, а катэхізмоўка Рэшаця нават выдадзеная на кошт архібіскупа.

Аднак перавыдаць гэтыя кнігі ў Менску напрыканцы 1941 г. было няпроста. Патрабаваўся ня толькі дазвол акупацыйных уладаў, але і друкарская папера, якая строга рэглямэнтавалася. Вядома, не было і грошай. Аднак усе гэтыя цяжкасьці былі пераадоленыя дзякуючы перш за ўсё падтрымцы новага старшыні гораду Вацлава Іваноўскага, які дазволіў іх выдрукаваць у падначаленай яму друкарні гарадзкой управы. Такім чынам, у першыя дні сьнежня малітаўнік і катэхізмоўка былі ўжо надрукаваныя і паступілі ў продаж[16].

Трэба заўважыць, што вынікам стараньня ксяндза Глякоўскага былі, дакладней, не дзьве, а тры кніжкі, бо ён клапаціўся пра больш эфэктыўнае выкарыстаньне духоўнай літаратуры жыхарамі Ўсходняй Беларусі і выдаў “Кароткі малітаўнік” у двух варыянтах — лацінкаю і кірыліцаю. Так зьявіўся першы ў найноўшай гісторыі беларускі каталіцкі малітаўнік, надрукаваны кірыліцаю.

Выпуск малітаўніка і катэхізмоўкі заслугоўвае ўвагі яшчэ і зь іншых прычынаў. Па–першае, пасьля “Беларускага правапісу” Браніслава Тарашкевіча яны былі першымі кніжкамі, выдадзенымі ў Менску пад нямецкай акупацыяй. І па–другое, як паведаміў аўтару гэтага артыкула Язэп Найдзюк, які ўдзельнічаў у выдавецкай працэдуры, выйшлі яны “не зусім легальна”. Што Найдзюк меў на ўвазе — невядома. Лічу, што Іваноўскі ня меў фармальнай згоды нямецкага гарадзкога камісара і адказнасьць за іх выданьне

[12] Менская Газэта. 1941. 12 кастрычніка.

[13] Слосканс Баляслаў (1893—1981) — каталіцкі сьвятар, біскуп, па нацыянальнасьці латыш. Пасьля вайны быў апостальскім візытатарам для беларусаў–каталікоў у Заходняй Эўропе. — *А.П.*

[14] Беларуская Газэта. 1943. 25 верасьня.

[15] Рэшаць Язэп (1890—1958) — каталіцкі сьвятар, доктар філязофіі і тэалёгіі, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[16] Менская Газэта. 1941. 7 сьнежня.

браў на сябе. Факт, што пасьля згаданай першай абвесткі абедзьве кніжкі ніколі больш не рэклямаваліся на старонках менскай акупацыйнай прэсы.

* * *

Дзейнасьць беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Менску залежала ня толькі ад іх асабістых якасьцяў і падтрымкі насельніцтва, але і ад іншых фактараў, сярод якіх найбольш істотнымі былі канфэсійная палітыка нямецкіх акупацыйных уладаў, стаўленьне віленскай каталіцкай курыі і беларускіх праваслаўных апазыцыянэраў.

Абвясьціўшы лёзунг вызваленьня ад бальшавізму, нямецкія ўлады ад самага пачатку акупацыі скасоўвалі савецкія абмежаваньні рэлігійнага жыцьця, вярталі вернікам цэрквы і касьцёлы. Летам 1941 г. нямецкія вайскоўцы нават удзельнічалі ў аднаўленьні менскай катэдры. Працытуем фрагмэнт успамінаў сьведкі тагачасных падзеяў Антона Шукелойця:

> Першую каталіцкую службу ў акупаваным Менску ў катэдральным касьцёле адслужыў нямецкі капэлян з Вэрмахту. За бальшавікамі ў гэтым касьцёле быў гараж, і нямецкія жаўнеры разам з тутэйшымі каталікамі мусілі цяжка папрацаваць, каб прывесьці сьвятыню да годнага выгляду. Аўтарная сьцяна складалася з прынесенага з тэатру вялікага кавалку дэкарацыйнага палатна з узорамі народнай дзяружкі чорна–жоўтага колеру ды расьпяцьця з музэйнага складу. Пры сьціплым аўтары заўсёды стаяла шмат кветак. Аб парадку ў касьцёле дбалі менскія немцы, асабліва павολская немка Марыя[17].

Пэўную канфэсійную палітыку ажыцьцяўляў і генэральны камісар Вільгельм Кубэ, які на пачатку верасьня 1941 г. стаў шэфам цывільнага праўленьня на Беларусі. Кубэ настойваў на стварэньні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, падтрымліваў ініцыятывы паступовай беларусізацыі Рыма–каталіцкага касьцёла.

10 верасьня былі выдадзены часовыя школьныя правілы, якія дапускалі свабоднае навучаньне рэлігіі, як каталіцкай, так і праваслаўнай, прычым у абодвух выпадках яно магло адбывацца па–за школай. Акрамя таго, у сакавіку 1942 г. адбывалася легалізацыя беларускага экзархату Грэка–каталіцкай царквы[18].

Аднаўленьнем душпастырскай працы на ўсходнебеларускіх абшарах цікавіўся і віленскі мітрапаліт, архібіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі. Працяглы час ён ня меў на тое неабходных паўнамоцтваў і толькі 13 кастрычніка 1941 г. атрымаў праз папскага нунцыя ў Бэрліне намінацыю на апостальскага адміністратара з надзвычайнымі паўнамоцтвамі на абшарах Менскай дыяцэзіі і Магілёўскай архідыяцэзіі, якія апынуліся пад нямецкай акупацыяй. На гэтай падставе архібіскуп высылаў туды ксяндзоў для аднаўленьня былых парафіяў[19].

Гэтая акцыя выклікала вострыя канфлікты вакол выкарыстаньня нацыянальнай мовы ў касьцёлах. Сьледам за віленскай курыяй польскія ксяндзы імкнуліся да адраджэньня каталіцызму ў польскай форме і непрыхільна ставіліся да беларускіх ксяндзоў, якія пашыралі Божае Слова ў роднай мове беларускіх каталікоў. Для абгрунтаваньня сваіх пазыцыяў і адны, і другія спасылаліся на волю насельніцтва, на выбраныя прыклады яго адмоўнага стаўленьня ці то да беларушчыны, ці то да пальшчызны, што ў нейкай меры магло адпавядаць сапраўднасьці[20].

На фоне канфрантацыйных настрояў плылі ў віленскую курыю і там ахвотна пры-

---

[17] Шукелойць А. Менск пад немцамі // Наша Ніва. 1992. № 9.

[18] Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 510—677 гэтага выд. — *Рэд.*

[19] Krahel T. Archidiecezja Wileńska // Życie religijne w Polsce pod okupacją 1939—1945. Katowice, 1992. S. 20.

[20] Характэрныя супрацьлеглыя беларускі і польскі пункты гледжаньня гл.: Раніца. 1942. 18 студзеня; Jądrychowska A. Zygzakiem i po prostu. Warszawa, 1965. S. 247.

маліся да ведама абвінавачваньні і даносы на беларускіх сьвятароў у Менску. Аб прычынах такога стаўленьня паведаміў ксёндз Станіслаў Чыжэўскі, канцлер курыі і асабісты сакратар архібіскупа Ялбжыкоўскага, які вінаваціў ксяндзоў Мальца і Рыбалтоўскага ў тым, што сваім захаваньнем і навукамі яны сеюць замяшаньне сярод насельніцтва і падбухторваюць яго супраць іншых (г.зн. польскіх. — *Ю.Т.*) ксяндзоў, прытым спасылаўся на чуткі, быццам яны былі агентамі гестапа і пісалі даносы на палякаў[21].

Палітычныя жарсьці польскага духавенства, якое, відаць, уяўляла, што беларускія каталікі — гэта палякі, бралі верх над інтарэсамі каталіцызму. Праўда, віленская курыя ўжо ня мела падтрымкі польскай дзяржавы, якая ў міжваенныя гады інсьпіравала выцясьненьне беларушчыны з касьцёлаў Заходняй Беларусі, аднак магла карыстацца іншымі мэтадамі змаганьня зь беларускімі сьвятарамі ў Менску. Паводле кс. Чыжэўскага, на падставе гэтых даносаў архібіскуп Ялбжыкоўскі суспэндаваў, г.зн. пазбавіў кананічных правоў, Мальца і Рыбалтоўскага, адклікаў зь Менску Глякоўскага, а калі той не пажадаў вярнуцца ў Вільню, суспэндаваў і яго[22].

Усё ж некаторыя акалічнасьці дазваляюць засумнявацца ў праўдзівасьці выказваньняў кс. Чыжэўскага. Па–першае, нямецкая паліцыя бясьпекі, якая мела надзіва дакладныя зьвесткі ў гэтай справе, паведамляла, што архібіскуп сапраўды высылаў беларускім сьвятарам лісты з загадам на працягу трох дзён зьявіцца ў віленскай курыі, у іншым жа выпадку пагражаў пазбаўленьнем кананічных правоў[23]. Па–другое, ксёндз Рыбалтоўскі пасьля выезду зь Менску яшчэ адносна доўгі час выконваў сьвятарскія абавязкі ў вёсцы Камень Івянецкага дэканату, што ў выпадку суспэнсы было б немагчымым. Урэшце, што датычыць кс. Глякоўскага, то, паводле сьведчаньня самага блізкага яго супрацоўніка Кабыляка–Гаеўскага, ліст архібіскупа не дайшоў да адрасата. Не перадалі яго людзі, якія не хацелі дапусьціць выезду ксяндза Глякоўскага зь Менску і прычыніць яму маральныя пакуты. У выніку ён ня ведаў пра ліст архіпастыра і спакойна выконваў свае душпастырскія абавязкі.

Такім чынам, пагроза суспэнсы не была адназначнай зь яе ажыцьцяўленьнем. Тым ня менш чуткі і здагадкі вакол гэтага пытаньня паўплывалі на адмоўную ацэнку беларускімі гісторыкамі дзейнасьці архібіскупа Ялбжыкоўскага[24].

На жаль, нападкі з польскага боку не былі адзінымі. Да беларускіх ксяндзоў у Менску адмоўна ставілася і частка праваслаўнага духавенства і сьвецкіх актывістаў, на што ўплываў стары міжканфэсійны антаганізм, засеяны ў Беларусі расейскімі і польскімі ўладамі. Больш індыфэрэнтна ставіліся да гэтага пытаньня ўзгадаваныя ў атэістычным духу ўсходнебеларускія дзеячы, затое "заходнікі" былі надзвычай чулыя да праявы адраджэньня каталіцызму. У душпастырскай працы ксяндза Глякоўскага і іншых беларускіх сьвятароў яны бачылі перш за ўсё пагрозу акаталічваньня праваслаўных, нягледзячы на іх вялікую колькасную перавагу. Паводле перапісу насельніцтва, праведзенага 01.10.1941, у горадзе Менску было, акрамя жыдоў у гета, 92,4 тыс. жыхароў, у тым ліку 74,2 тыс. праваслаўных (80,3%) і 16,8 тыс. каталікоў (18,2%)[25].

Ува ўяўленьні Апанаса Мартоса, праваслаўнага япіскапа і царкоўнага дзяяча, бела-

[21] Czyżewski S. Ks. dr. Romuald Jalbrzykowski arcybiskup metropolita wileński. Wspomnienia. Białystok, 1959. S. 269 (машынапіс, захоўваецца ў архіве рыма–каталіцкай вышэйшай духоўнай сэмінарыі ў Беластоку).

[22] Тамсама.

[23] Архіў новых актаў у Варшаве (далей — AAN), александрыйскія мікрафільмы (далей — AM), T–175, ролік 234, Ereignismeldung UdSSR, 12.01.1942.

[24] На адмоўнае стаўленьне беларускіх гісторыкаў да дзейнасьці архібіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага падчас вайны паўплывала і тое, што гэты біскуп яшчэ ў міжваенны пэрыяд зарэкамэндаваў сябе як перакананы праціўнік беларускага руху, які супрацьстаяў любым спробам беларусізацыі касьцельнага жыцьця ў паўночна–ўсходніх ваяводзтвах Польшчы. — *А.П.*

[25] Менская Газэта. 1941. 28 кастрычніка.

рускія ксяндзы даўно чакалі, каб на развалінах праваслаўнага жыцьця, зруйнаванага бальшавікамі, распачаць місійную каталіцкую працу і пасьля прыбыцьця ў Менск адразу яе разгарнулі як сярод каталікоў, так і сярод праваслаўных[26]. Пачуцьцё небясьпекі выклікала і беларуская мова, якой яны карысталіся і якой праваслаўны бок пакуль што мог супрацьпаставіць толькі традыцыйную расейшчыну[27]. У такім пляне дзейнасьць ксяндза Глякоўскага і іншых беларускіх сьвятароў здавалася ім больш небясьпечнай, чым дзейнасьць польскіх ксяндзоў. Насьцярожваў і кірылічны варыянт "Кароткага малітаўніка", нібыта прызначанага для місіянэрскай працы сярод праваслаўных.

Аднак у выніку нэўтральнага стаўленьня Вэрмахту і Кубэ пажаданьні і пастуляты адгарадзіць праваслаўе ад уплываў каталіцызму не давалі чаканага плёну. Такім чынам, у праваслаўных актывістаў заставалася надзея на разуменьне і падтрымку іх намаганьняў нямецкай паліцыяй бясьпекі. Ужо зь першых дзён акупацыі яны накіроўвалі ў паліцэйскія органы даносы ня толькі супраць польскіх духоўнікаў як носьбітаў палітычнай дывэрсіі, але і супраць беларускіх каталіцкіх сьвятароў, якія, паводле зьвестак паліцэйскіх інфарматараў, меліся разам з польскімі ксяндзамі дзейнічаць у рамках "хітра задуманай" віленскай курыяй усходняй місіі[28]. Пры гэтым ігнаравалася сапраўднае стаўленьне курыі і польскага актыву да беларускіх сьвятароў. Паводле Кабыляка–Гаеўскага, нават ксяндза Глякоўскага, вядомага сваёю беларускаю патрыятычнаю дзейнасьцю ў Вільні, частка праваслаўных апанэнтаў у Менску лічыла "палякам". І ў гэтым асяродзьдзі быў закадаваны злавесны прынцып "паляк — каталік".

Даносы і пажаданьні праваслаўных актывістаў адлюстравалі паліцэйскія рапарты, т.зв. *Ereignismeldungen UdSSR*, якія цудоўна захаваліся і ёсьць каштоўным матэрыялам да вывучэньня між іншым тагачаснага канфэсійнага становішча на Беларусі. Як сьведчаць дакумэнты, праваслаўныя дзеячы імкнуліся пераканаць нямецкія ўлады ў неабходнасьці ліквідацыі Каталіцкага касьцёла на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі і такім чынам забясьпечыць манапольную пазыцыю Праваслаўнай царкве. Пасьлядоўна фармуляваліся пастуляты аб забароне дзейнасьці каталіцкага духавенства пакуль што на ўсходнебеларускіх абшарах[29]. Прадметам нападкаў былі таксама беларусы каталіцкага веравызнаньня ці паходжаньня, якія займалі кіруючыя пасады ў адміністрацыі гораду.

Аднак напрыканцы 1941 г. нямецкая паліцыя бясьпекі, маючы больш дакладную інфармацыю аб стаўленьні віленскай курыі да беларускіх сьвятароў у Менску, ужо не пагаджалася зь іх беспадстаўнымі абвінавачваньнямі праваслаўнымі дзеячамі. Таму ранейшыя зьвесткі аб тым, быццам яны былі тайнымі выканаўцамі палянізатарскай палітыкі архібіскупа Ялбжыкоўскага, саступілі новым ацэнкам. Як сьцьвярджаў паліцэйскі рапарт за месяц сьнежань, імкненьне архібіскупа адклікаць беларускіх ксяндзоў мела на мэце зьмяншэньне ўплыву беларускіх сілаў на аднаўленьне каталіцкага жыцьця. Так паліцэйскія ўлады нарэшце зразумелі, што дзейнасьць гэтых ксяндзоў супярэчыла інтарэсам курыі. У выніку гэтай своеасаблівай "рэабілітацыі" спыніліся ацэнкі іх "шкоднай дзейнасьці", што ўсё ж не датычыла польскіх ксяндзоў, прысутнасьць якіх ува Ўсходняй Беларусі надалей строга забаранялася[30].

Такім чынам, аддалялася надзея праваслаўных дзяячоў на ажыцьцяўленьне іх пастуляту нямецкімі рукамі. Давялося дзейнічаць самастойна.

[26] М(артос) А(панас). Матэрыялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы (Пэрыяд савецкай і нямецкай акупацыі Беларусі). Нямеччына, 1948. С. 135—136.

[27] Літургія ў Праваслаўнай царкве адпраўлялася ў царкоўнаславянскай мове, блізкай да расейскай. Казані, хоць іх і можна было прамаўляць па–беларуску, таксама гаварыліся, як правіла, па–расейску. Па–расейску і спавядалі. — *А.С.*

[28] AAN, AM, T–175, ролік 233, Ereignismeldung UdSSR, 28.09.1941.

[29] Тамсама.

[30] AAN, AM, T–175, ролік 234, Ereignismeldung UdSSR, 12.01.1942.

* * *

15 сьнежня 1941 г. у менскім гарадзкім тэатры (сёньня — тэатар імя Янкі Купалы) пачалася канфэрэнцыя школьных інспэктараў. На яе ўрачыстае адкрыцьцё былі запрошаны прадстаўнікі беларускага духавенства, між іншым — ксяндзы Глякоўскі і Малец. Працытуем успаміны Антона Шукелойця, які прысутнічаў на гэтай урачыстасьці:

> Ксяндзы (Глякоўскі і Малец) сядзелі ў першым радзе разам з праваслаўным духавенствам. Я прыйшоў у тэатар зь вясёлай кампаніяй з рэдакцыі. З намі быў таксама кс. Пётра Татарыновіч, адзеты ў звычайны шэры касьцюм з гальштукам (не пазнаць, што ксёндз). З намі былі Адамовіч, Савёнак, Сянкевіч і інш. Для нас на партэры месца не было, і мы забраліся на галёрку, і то недзе ў трэці рад, ну і дастасаваліся да тае галёркавае кампаніі, пераважна моладзі. І найважнейшае! Калі гралі нямецкія гімны, усе ўсталі і выцягнулі рукі ў арыйскае прывітаньне направа ўскос. Толькі ксяндзы ўсталі, але рук не паднялі, і гэта было вельмі відаць, і дзе–хто мог тлумачыць дэманстрацыяй. <...> Калі мы выйшлі з тэатру (таксама пазьней за ўсіх, бо з галёркі), да нас падбеглі людзі з камітэту і паведамілі аб арышце ксяндзоў нямецкай паліцыяй СД[31].

Пасьля гэтага здарэньня ксяндзы Татарыновіч і Рыбалтоўскі хутка пакінулі Менск. Як пісаў Шукелойць, пасьля выйсьця з тэатру “людзі з каталіцкага камітэту забралі ад нас кс. Татарыновіча і таго ж вечара ці назаўтра адправілі яго ў Баранавічы, баяліся, каб не арыштавалі і яго”[32]. Амаль адначасова выехаў у Камень, што каля Івянца, і кс. Рыбалтоўскі[33].

На гэтае іх рашэньне, якое фармальна выглядала як дэзэртэрства з важнай пляцоўкі, несумненна паўплывала перакананьне, што пры варожым стаўленьні далейшая душпастырская праца ў Менску будзе немагчымай. Яшчэ перад сваім выездам кс. Татарыновіч разам з катэхетам Станіславам Васюкевічам забралі з пакою Глякоўскага паперы, пячаткі, друкарку, іншыя рэчы і перадалі ксяндзу Адаму Станкевічу ў Вільні[34]. А гэта ўжо выглядала як ліквідацыя душпастырства.

Ці былі такія дзеяньні ксяндзоў Татарыновіча і Рыбалтоўскага апраўданыя, ці яны былі толькі праявай панікі? Адказ на гэтае пытаньне дае сьведчаньне ксяндза Зянона Ігнатавічуса, капэляна літоўскіх батальёнаў, якія тады дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі. Ён прыехаў у Менск на Каляды 1941 г., і ў той самы дзень зьявіліся на плябанію пры касьцёле сьвятых Сымона і Алены начальнік акруговай паліцыі Юліян Саковіч зь нейкім паліцыянтам. Яны хацелі яго арыштаваць як “польскага ксяндза”, які прыехаў з мэтай палянізацыі Беларусі. Як пісаў кс. Ігнатавічус, толькі афіцэрскі мундзір, у які ён перапрануўся, выратаваў яго ад арышту[35]. Беларускіх жа ксяндзоў нішто не ахоўвала.

Пра лёс Глякоўскага і Мальца хадзілі розныя чуткі. Некаторыя дасьледчыкі лічылі, што яны былі расстраляныя, а іншыя — што загінулі ў нямецкіх канцлягерох Аўшвіц ці Бухенвальд. Ня раз памылкова падавалася дата іх арышту (1942 год). Зь лёгкай рукі

[31] Шукелойць А. Ліст да аўтара ад 17.06.1996.

[32] Тамсама. Неўзабаве кс. Татарыновіч выехаў з Баранавічаў у Варшаву, дзе быў настаўнікам рэлігіі ў беларускай пачатковай школе. У чэрвені 1944 г. удзельнік другога ўсебеларускага кангрэсу. Летам 1944 г. выехаў у Нямеччыну і адтуль у Рым, дзе ў 1950—1975 г. быў рэдактарам каталіцкага часопіса “Зьніч” і кіраўніком беларускай сэкцыі Ватыканскага радыё. Выдаў малітаўнік “Hołas Dušy” (1949), “Сьвятую Эванэлю і апостальскія дзеі” (1954), Г. Сянкевіча “Quo Vadis” (1956), “Лісты сьвятых апосталаў” (1974) і інш. Памёр у 1978 г. у Рыме. — *Ю.Т.*

Раман Г. Сянкевіча “Quo vadis” у перакладзе кс. Пятра Татарыновіча перавыдадзены ў 2002 г. у Менску. — А.С.

[33] У Камені кс. Рыбалтоўскі працаваў яшчэ паўтара гады; расстраляны немцамі 27.07.1943.

[34] Зьніч. № 82—83, 1965. Пра Яніну Ліпніцкую зьвестка М. Кабыляка–Гаеўскага.

[35] Ignonis (Ignatavicius) Z. Praeitis kalba: dienoraštiniai užrašai. Gudija, 1941—1944. Brooklyn: Ignatavicius 1980. P. 228; Jūra K. Monsinjoras. Brooklyn: Pranciskonu Sp., 1979. P. 159—161.

аўтараў, якія хаваліся пад псэўданімамі П. Дрыгоніч і П. Дрыгвіч (гл.: Наша вера. 1995. № 1), пашыраліся зьвесткі і аб тым, што яны ня ўсталі падчас выкананьня нямецкіх гімнаў і таму былі арыштаваныя. Ніякай дакумэнтацыі аб іх лёсе няма ў менскіх архівах, а польская выведка абмежавалася кароткім сьцьвярджэньнем, што "ў сьнежні 1941 г. таямніча зьніклі беларускія ксяндзы"[36].

Таямніцу іх зьнікненьня ня высьветліла нават нямецкая паліцыя, да якой, паводле зьвестак Дрыгоніча і Дрыгвіча, зьвярталіся беларускія каталіцкія дзяячы, перакананыя ў тым, што якраз яна арыштавала ксяндзоў. "Лютая імпрэза, — пісалі яны, — была так спрэпаравана, што фактычна не было з кім гаварыць". Узьнікае важнае пытаньне: паліцыя не хацела гэтага высьветліць ці не магла?

Праведзеныя аўтарам досьледы архіўнай дакумэнтацыі нямецкіх органаў бясьпекі, якія скрупулёзна занатоўвалі нават і многія менш значныя здарэньні, ня выявілі зьвестак аб арышце Глякоўскага і Мальца, што, вядома, яшчэ недастаткова для канчатковых высноваў. Затое больш каштоўнай ёсьць зьвестка з цытаванага паліцэйскага рапарту за месяц сьнежань 1941 г., які сьцьвярджае, што беларускія ксяндзы пакінулі Менск, каб не прымаць да ведама лістоў архібіскупа Ялбжыкоўскага з пагрозай суспэнсы, аб якой яны нешта ўжо чулі. Цікава і тое, што ў час, калі іх ужо не было ў Менску, а Глякоўскі і Малец былі арыштаваныя, а можа, і не жылі, нямецкая паліцыя задумвалася над тым, як цяпер будзе да іх ставіцца архібіскуп[37].

Гэты дакумэнт, прызначаны для ўнутранага карыстаньня нямецкімі ўладамі, а не для прапаганды, дазваляе зрабіць выснову, што нямецкая паліцыя бясьпекі ў Менску сапраўды ня ведала пра арышт ксяндзоў і таму не магла даць ніякіх зьвестак пра іх лёс.

Урэшце, застаецца высьветліць прычыну арышту сьвятароў, якой магло быць тое, што, стоячы падчас выкананьня нямецкіх гімнаў, яны не падымалі рук для прывітаньня. Гэтае "падыманьне" называлася "Deutscher Gruss" ("нямецкае прывітаньне") і мела акрэсьлены рэглямэнт карыстаньня[38].

Па высьвятленьне мы зьвярнуліся да выдатнага экспэрта акупацыйных парадкаў у Эўропе варшаўскага прафэсара Чэслава Мадайчыка, які паведаміў, што нямецкае прывітаньне не дазвалялася стасаваць ня немцам, акрамя членаў ненямецкіх фармацыяў СС. А гэта значыць, што захаваньне абодвух сьвятароў было карэктным і не магло трактавацца немцамі як злачынства. Прычына была відавочна надуманая і мела на мэце адцягнуць увагу ад ганебных дзеяньняў тых, хто не прызнаваў беларускасьці па–за праваслаўем.

*Друкуецца паводле:* Наша вера. 1996. № 2.

[36] AAN, Zespół Delegatury Rządu, 202/111—201. S. 11.
[37] AAN, AM, T—175, ролік 234, Ereignismeldung UdSSR, 12.01.1942.
[38] Knaurs. Lexikon. Berlin, 1939. S. 273.

# Спробы адраджэньня Ўніяцкай царквы на Беларусі ў ХХ стагодзьдзі

У сыстэме русіфікацыйных захадаў царызму ў Беларусі асаблівую ролю адыграла ліквідацыя ў 1839 г. Уніяцкай царквы і далучэньне беларускіх уніятаў да Праваслаўнай царквы. Гэта была ціхая рэвалюцыя, якая мела ня толькі важнае рэлігійнае, але і палітычнае значэньне: уцягненьне пераважнай часткі сялянства, часткова таксама мяшчанства, у арбіту расейскага праваслаўя дазваляла, з аднаго боку, шырыць расейскасьць сярод найбольшай з канфэсійнага гледзішча часткі насельніцтва Беларусі, з другога ж боку — ідэалягічна ізаляваць пераважна рыма–каталіцкую шляхту[1].

Імкнучыся супрацьдзеяць гэтым зьявам, стваральнікі беларускага нацыянальнага руху, запачаткаванага ў першыя гады ХХ ст., рабілі захады для адраджэньня уніі ў Беларусі. Здаецца, што такую іх пазыцыю абумоўлівалі галоўным чынам палітычныя матывы — бо з уніяй яны зьвязвалі надзею на стварэньне на ўзор грэка–каталіцкай Галіччыны незалежнай ад расейскіх і польскіх уплываў беларускай нацыянальнай царквы, якая б заставалася ў кананічным адзінстве з Апостальскай сталіцай.

Гэтыя ідэі былі ня новыя. Першым, бадай, іх вылучаў у часе Студзеньскага паўстаньня Канстанцін Каліноўскі на бачынах “Мужыцкай праўды”, іх разьвіваў у канцы ХІХ ст. Францішак Багушэвіч і іншыя аўтары[2]. Варта таксама адзначыць пераклад апавяданьня Стэфана Жаромскага[3] “Да свайго Бога” пра перасьлед уніятаў на Падляшшы, зьмешчаны ў нелегальным выданьні “Калядная пісанка”, апублікаваным у 1904 г. маладымі беларускімі дзячамі ў Пецярбургу.

Літаратурная творчасьць сапраўды спрычынялася да папулярызацыі ідэі уніі сярод дзячоў беларускага руху, аднак ува ўмовах дзейнай у Расейскай імпэрыі юрыдычнай абароны праваслаўя не магло быць гаворкі пра яе рэалізацыю. Істотныя зьмены ў гэтай сфэры прынёс толькі абвешчаны ў красавіку 1905 г. царскі “Маніфэст аб верацярпімасьці”, які ў ліку іншага дазваляў жыхарам краіны свабодны выбар веравызнаньня.

З канфэсійнай свабоды ў Расеі скарысталася больш за 230 тыс. чалавек, якія ў 1905—1909 перайшлі з праваслаўя ў каталіцтва. Пераважную іх частку складалі былыя ўніяты на Падляшшы і Холмшчыне, колькасьць жа перакінчыкаў з праваслаўя на беларускіх землях ацэньваецца на больш як 40 тыс. чалавек. Гэта былі галоўным чынам нашчадкі не былых уніятаў, а рыма–каталікоў, якія падчас рэпрэсіяў па Студзеньскім паўстаньні былі навернутыя ў праваслаўе. Найбольшая колькасьць навернутых (да 30 тыс.) адзначалася ў Віленскай дыяцэзіі, якая ахоплівала дзьве губэрні — Віленскую і Гарадзенскую, значна меней — у Менскай губэрні (каля 10 тыс.), а таксама ў Магілёўскай і Віцебскай[4].

Такім чынам, ані традыцыі, на якія спасылаліся нацыянальныя дзячы, ані памяць пра былую унію, якая захавалася ў беларускіх праваслаўных масах, не спрычыніліся да

---

[1] Паводле ацэнак беларускіх гісторыкаў, у канцы XVIII ст. да Ўніяцкай царквы належала каля 75% жыхароў Беларусі. Гл.: Грыцкевіч А. Уніяцкія тэндэнцыі і Ўніяцкая царква на Беларусі ў XV—XVIII стагоддзях // Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The Foundations of Historical and Cultural Traditions in East Central Europe. Lublin—Rzym, 1994. S. 249.

[2] Хаўстовіч М. Скасаванне уніі і беларуская ананімная літаратура; Запрудскі І.М. Пытанне уніі ў газеце Кастуся Каліноўскага “Мужыцкая праўда”; Тарасюк Л. Адлюстраванне ўніяцкай тэматыкі ў творчасці Францішка Багушэвіча // Unia Brzeska. Kraków, 1994. S. 506—531.

[3] Жаромскі Стэфан (1864—1925) — польскі пісьменьнік, якога называюць “сумленьнем польскае літаратуры”. — *А.П.*

[4] Католицизм в Белоруссии. Минск, 1987. С. 37; Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie. Wilno, 1912. S. 526.

ўзьнікненьня пасьля 1905 году спантаннага руху зьнізу дзеля яе адраджэньня ў Беларусі. Ня спраўдзіліся таксама і надзеі мітрапаліта Шаптыцкага, які разам зь беларускімі дзяячамі, згуртаванымі вакол віленскага тыднёвіка "Наша Ніва", плянаваў распачаць перасяленьне галіцкіх грэка–каталікоў за расейскую мяжу, у тым ліку і ў Беларусь, дзеля стварэньня там асяродкаў прапагандаваньня і адраджэньня Ўніяцкай царквы. Гэтую задуму нэўтралізавалі расейскія ўлады[5], якія сапраўды згаджаліся на перасяленьне галіцкіх эмігрантаў разам зь іхнымі душпастырамі, аднак не ў Беларусь ці Валынь, але ў далёкую Сібір[6].

Толькі пасьля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. і падзеньня царызму, калі сярод расейскага праваслаўнага духавенства ўзмацняліся ўнійныя настроі, Часовы ўрад пайшоў на саступкі, у ліку іншага дазволіў скліканьне ў Петраградзе сыноду Расейскай грэка–каталіцкай царквы. На прапанову мітрапаліта Шаптыцкага экзархам гэтай царквы стаў айцец Леанід Фёдараў[7], які плянаваў распачаць унійную акцыю таксама і ў Беларусі. Гэты плян падтрымала Беларуская хрысьціянска–дэмакратычная злучнасьць, якая ў сваёй праграме, прынятай у 1917 г. на арганізацыйным зьезьдзе ў Менску, выступіла за аб'яднаньне праваслаўных і рыма–каталікоў "у супольнай веры з рознымі абрадамі"[8].

Аднак бальшавіцкі рэжым перакрэсьліў магчымасьць нармальнай працы ўсіх цэркваў ува Ўсходняй Беларусі, у тым ліку таксама і рэалізацыі ўнійных плянаў. У гэтых варунках створаная Апостальскай сталіцай у 1923 г. менская каталіцкая дыяцэзія ўсходняга абраду намінальна існавала да 1929 г., але так і не была ўкамплектаваная сьвятарамі[9].

Затое пэўныя магчымасьці ўнійнай працы адкрываліся ў Польшчы, у межах якой паводле Рыскай дамовы (1921 г.) апынулася частка беларускіх і ўкраінскіх абшараў з прыкладна 4–мільённым праваслаўным насельніцтвам.

Шмат што наводзіла на думку, што апірышчам для ўнійнай дзейнасьці на гэтых абшарах магла б быць грэка–каталіцкая мітраполія ў Галіччыне, якая таксама апынулася ў межах адроджанай польскай дзяржавы. Аднак, нягледзячы на шматлікія ініцыятывы мітрапаліта Шаптыцкага, гэтая канцэпцыя была адкінутая польскімі ўладамі, якія баяліся, што арганізацыя грэка–каталіцкіх парафіяў на заходнебеларускіх землях, а таксама ў Валыні, Падляшшы і Холмшчыне будзе спрыяць росту нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларусаў і ўкраінцаў, што, на думку ўладаў, складала б пагрозу інтарэсам дзяржавы[10].

[5] А. Луцкевіч пісаў, што супраць рэалізацыі гэтага пляну інтрыгавалі польскія (г.зн. і апалячаныя) абшарнікі. Гл.: A.N. Metropolita Szeptycki a ruch białoruski // Przegląd Wileński. 1926. № 9. — *А.С.*

[6] Гарошка Л. Пад знакам "рускае і польскае веры" // Божым Шляхам. 1955. № 64—65; Prus E. Władyka Świętojurski. Warszawa, 1985. S. 41—42.

[7] Фёдараў Леанід (1879—1935) — расейскі рэлігійны дзяяч, з траўня 1917 г. быў экзархам Каталіцкай царквы ўсходняга абраду ў Расеі. У 1923 г. быў сярод падсудных на маскоўскім працэсе біскупа Цепляка ў Маскве, дастаў 10 гадоў зьняволеньня. Памёр у высылцы. — *А.П.*

[8] Гарошка Л. Пад знакам...

[9] Тамсама.

[10] Засьцярогі польскіх уладаў мелі пад сабою пэўны грунт. Так, у рапарце палескага ваяводы у Міністэрства рэлігійных вызнаньняў і народнай асьветы ад 14 студзеня 1939 г. падкрэсьлівалася:

> Парафія ў Гарадной, Столінскага павету, на працягу 8–мі гадоў апанаваная уніяй, зьяўляецца пунктам пастаянных атакаў мітрапаліта Шаптыцкага, які, не зважаючы на рэпрэсіі, зь якімі сутыкаюцца дэлегаваныя ім пробашчы, на працягу некалькіх гадоў высылае туды сваіх місіянэраў–украінцаў… Належыць падкрэсьліць, што эмісары мітрапаліта Шаптыцкага, хоць і зьяўляюцца перакананымі ўкраінцамі, у выпадку няўдачаў у правядзеньні ўкраінскае працы зь лёгкасьцю пераходзяць на беларускую працу, як гэта мае месца ў Альпені Столінскага павету, дзе як кс. Сьцяпан Гладун, так і ягоны псаломшчык Масей Куц, абодва ўкраінцы з Усходняй Малапольшчы (так палякі часта называлі Ўсходнюю Галіччыну, супраць чаго заўсёды горача пратэставалі ўкраінцы. — *заўвага камэнтатара*), выключна агрэсіўна намагаюцца грунтаваць сваю працу на беларускім нацыяналізьме і выклікаюць хвалюваньні сярод спакойнага насельніцтва.

*Крыніца:* Архіў новых актаў у Варшаве (ААН). Міністэрства рэлігійных вызнаньняў і народнай асьветы. Сыгн. 385. А. 193). — *А.П.*

Пазыцыя польскага ўраду ў прынцыпе не супярэчыла інтарэсам Апостальскай сталіцы, якая на заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх землях спадзявалася перадусім назапасіць досьвед, неабходны для плянаванай у будучыні ўнійнай працы ў Расеі, а не ўзмацняць нацыянальную сьвядомасьць мясцовага насельніцтва. Таму паўстала патрэба знайсьці адпаведную для Расеі альтэрнатыўную форму ўнійнай працы, што абумовіла ўзьнікненьне асобнага ад грэка–каталіцкага т.зв. бізантыйска–славянскага абраду, называнага часам усходнекаталіцкім. Праект гэтага абраду распрацаваў на пачатку 20–х гадоў бэльгійскі езуіт кс. Мішэль д'Эрбіны[11] пад уплывам расейскага эмігранта князя Валконскага[12] — прыхільніка ўнійнай працы сярод расейцаў, да якіх ён залічаў беларусаў і ўкраінцаў[13].

Пры такой канцэпцыі каталіцкі бізантыйска–славянскі абрад павінен быў захоўваць вонкавыя формы расейскага праваслаўя. Праект ігнараваў спэцыфіку дзейнасьці ў беларускіх умовах і меў няшмат супольнага з патрэбамі беларускага нацыянальнага адраджэньня. Толькі такая канцэпцыя новага абраду магла не выклікаць прынцыповых пярэчаньняў польскіх уладаў.

Дадатковай гарантыяй ад непажаданай беларусізацыі ці ўкраінізацыі бізантыйска–славянскага абраду было яго падпарадкаваньне польскай рыма–каталіцкай герархіі. Біскупы ўсходніх дыяцэзій, у якіх ажыцьцяўлялася ўнійная акцыя, уваходзілі ў склад т.зв. Канфэрэнцыі біскупаў — нацыянальнага кіраўнічага органа, адказнага за рэалізацыю гэтай кампаніі перад дзяржаўнымі і царкоўнымі ўладамі.

Іншую канцэпцыю ўнійнай працы, якая брала пад увагу нацыянальную спэцыфіку беларусаў, меў віленскі біскуп Юры Матулевіч. У 1923 г. ён атрымаў згоду папы Пія XI на заснаваньне ў Друі на Дзьвіне кляштару айцоў марыянаў, якія, апроч душпастырскай і адукацыйнай працы, вялі паслушніцтва для беларусаў, якія хацелі прысьвяціць сябе ўнійнай справе. Трохі пазьней, 23 красавіка 1924 г., ён заснаваў у Вільні беларускую кангрэгацыю сясьцёр–эўхарыстак усходняга абраду для працы сярод праваслаўнай моладзі. Урэшце, у верасьні 1924 г. ён дазволіў айцам–езуітам заснаваць у Альбярціне пад Слонімам усходнюю місію з паслушніцтвам, а трохі пазьней вярнуў айцам базылянам царкву ў Тараканах на Палесьсі. Ён прыцягнуў да ўнійнай працы праваслаўнае духавенства, у прыватнасьці, архімандрыта Філіпа Марозава, якога ён прызначыў рэктарам капліцы ў Вільні[14].

Такім чынам, за адносна кароткі час біскуп Матулевіч стварыў салідныя арганізацыйныя падставы для ўнійнай дзейнасьці ў Віленскай дыяцэзіі, улічваючы пры гэтым беларускую спэцыфіку, якую недаацэньвалі праектанты бізантыйска–славянскага абраду ў Рыме. Гэтыя дзеяньні апярэджвалі афіцыйную згоду Апостальскай сталіцы на пачатак т.зв. нэаўнійнай акцыі ў Віленскай дыяцэзіі, безь якой немагчыма было засноўваць парафіі ўсходняга абраду, аднак узьніклыя манаскія структуры ўжо былі здольныя да іх арганізацыі.

Выглядае, што біскуп Матулевіч сьпяшаўся запачаткаваць унійную справу, бо адчуваў, што неўзабаве ён будзе змушаны пакінуць віленскае біскупства. Ягонае дадатнае

[11] Мішэль д'Эрбіны (1880—1957) — каталіцкі біскуп, арганізатар каталіцкай місійнай працы ў Расеі. Быў рэктарам Усходняга папскага інстытуту (ці Папскага расейскага калегіюму [Русікуму]) і дарадцам Кангрэгацыі ўсходніх цэркваў у Ватыкане. — *А.П.*

[12] Валконскі Пётар Міхайлавіч (1861—1947) — князь, ініцыятар стварэньня петраградзкага Таварыства прыхільнікаў аб'яднаньня цэркваў у 1917—1918 г. Пазьней, падчас эміграцыі ў Канстантынопалі, прыняў грэка–каталіцтва. У 1931—1937 г. працаваў у архіве мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. — *А.П.*

[13] Prus E. Władyka... S. 95—96.

[14] Górski T. Stosunek biskupa Jerzego Matulewicza do spraw językowych w diecezji wileńskiej 1918—1925. Rzym, 1970. S. 48; Floridi U.A. Il servo di Dio Matulaitis e la conversione della Russia // La civilta catolica. 01.06.1957.

стаўленьне да літуанізацыі і беларусізацыі душпастырскай працы ў рыма–каталіцкіх касьцёлах выклікала напады польскіх шавіністаў. Цяпер да гэтага дадавалася таксама дзейнасьць сярод праваслаўных беларусаў, характар якой быў хутка і правільна ацэнены польскай адміністрацыяй.

Пра гэта сьведчыць архіўная дакумэнтацыя. 5 лютага 1924 г. міністэрства веравызнаньняў і народнай асьветы абвінаваціла біскупа Матулевіча ў ажыцьцяўленьні дэпалянізацыі Віленшчыны і Наваградчыны[15]. З сьнежня 1924 г. прадстаўнік гэтага міністэрства, Бароўскі, заявіў, што з прычыны таго, што ўнійныя мэты Каталіцкай царквы не заўсёды супадаюць з пастулятамі польскай дзяржавы, неабходна барджджэй акрэсьліць адпаведнае стаўленьне да праваслаўя, якое з увагі на яго традыцыйнае паслушэнства дзяржаўнай уладзе можна выкарыстаць як пэрспэктыўны інструмэнт польскай палітыкі на ўсходніх крэсах. Адпаведна, — зазначыў Бароўскі, — інтарэсы Польшчы вымагаюць скасаваньня Уніі[16].

Варта заўважыць, што такія погляды выказваліся ў часе, калі на заходнебеларускіх землях не было яшчэ ніводнай уніяцкай парафіі. Гэта значыць, прычынай занепакоенасьці польскай адміністрацыі была ўжо сама ідэя беларусізацыі ўсходняга абраду.

Нэаўнійная кампанія на заходнебеларускіх землях распачалася ў 1925 г. пасьля атрыманьня фармальнай згоды Ватыкана. У Віленскай дыяцэзіі ёй кіраваў, пасьля адхіленьня ад пасады біскупа Матулевіча, новы архібіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, а ў Пінскай дыяцэзіі — біскуп Зыгмунт Лазінскі, якія як палякі належным чынам падбалі пра інтарэсы Каталіцкай царквы, так і пра інтарэсы польскай дзяржавы. Апалягеты гэтай кампаніі сьцьвярджаюць, што яна ажыцьцяўлялася зьнізу, на просьбу праваслаўнага насельніцтва, а яе праціўнікі — што яе навязвалі сузвыш ватыканска–польскія функцыянэры. Пастараемся разгледзець гэтае пытаньне, зьвяртаючы ўвагу ня толькі на ходу і вынікі гэтай кампаніі, але таксама і на стаўленьне да яе зацікаўленых бакоў.

Пачнём з манаскіх структураў. Такім чынам, у выніку асаблівага клопату архібіскупа Ялбжыкоўскага пра інтарэсы дзяржавы за кароткі час беларуская мова была выдаленая з рыма–каталіцкіх касьцёлаў Віленскай дыяцэзіі, а Друйскі кляштар марыянаў адхілены ад унійнай кампаніі. З гэтага кляштару сапраўды выйшлі колькі ксяндзоў усходняга абраду, аднак іх высылалі не ў беларускія землі, а ў Харбін. У выніку новай дыяцэзійнай палітыкі была спыненая таксама арганізацыя заплянаванай біскупам Матулевічам беларускай жаночай кангрэгацыі.

Больш плённай была дзейнасьць езуітаў. Увосень 1924 г. яны заснавалі місію ў Альбярціне пад Слонімам зь філіямі, т.зв. станцыямі, у Вільні і Сынкавічах, пры якіх яны стварылі парафіі ўсходняга абраду. У 1934 годзе пры віленскай станцыі паўстала Малая сэмінарыя, у якой вучыліся колькі кандыдатаў на духоўны стан. Апроч таго місія езуітаў пачала выданьне рэлігійнай літаратуры на беларускай і расейскай мове, у тым ліку месячніка “Да Злучэньня” пад рэдакцыяй ксяндза Антона Неманцэвіча.

У працы езуітаў удзельнічала заснаваная ў 1927 г. у Вільні кангрэгацыя сясьцёр Найсьвяцейшага Сэрца Ісуса ўсходняга абраду. Кангрэгацыя мела дзьве філіі (станцыі) у Альбярціне (1929—1939) і Росі (1929—1933). У дзейнасьці абедзьвюх манаскіх структураў (мужчынскай і жаночай) удзельнічалі рыма–каталікі пераважна польскай нацыянальнасьці.

Місіянэрскую дзейнасьць у Пінскай дыяцэзіі праводзілі капуцыны ўсходняга абраду. У 1932 г. яны стварылі ў Любашове Кашырскага павету (цяпер ува Ўкраіне) парафію і Малую сэмінарыю для моладзі, якія праз колькі гадоў былі перанесеныя ў Ломжу. Былі створаныя таксама дзьве жаночыя кангрэгацыі ўсходняга абраду: у Зарэччы пад Пінскам і ў Любашове. Урэшце, у Тараканах каля Кобрына працавалі базыляне, якія ў

[15] Górski T. Stosunek biskupa... S. 43.

[16] AAN, MWRiOP, syg. 278, Пратакол канфэрэнцыі ў ваяводзкай управе Беластоку, 3 XII 1924. — *Ю.Т.* Гл. заўвагу 30 да артыкула “Да гісторыі Друйскага марыянскага манастыра”. — *А.С.*

1925 г. арганізавалі парафію, але неўзабаве перадалі яе сьвецкаму духавенству.

У выніку місіянэрскай дзейнасьці езуітаў, базылянаў і капуцынаў пры ўдзеле жаночых кангрэгацыяў агулам паўсталі шэсьць унійных парафіяў, у тым ліку тры ў Віленскай дыяцэзіі (Вільня, Альбярцін, Сынкавічы) і тры ў Пінскай дыяцэзіі (Тараканы, Зарэчча, Любашоў). Зьяўленьне гэтых парафіяў не суправаджалася передзелам маёмасьці Праваслаўнай царквы, бо ў Вільні, Сынкавічах, Тараканах і Любашове выкарыстоўваліся рыма–каталіцкія касьцёлы[17], а ў Альбярціне і Зарэччы былі пабудаваныя новыя ўніяцкія капліцы.

Падобная сытуацыя была ў некаторых парафіях, кіраваных сьвецкім духавенствам. У Альпені Столінскага павету і ў Збуражы каля Маларыты былі пабудаваныя новыя ўніяцкія храмы, а ў Сьвіслачы ўніятам передалі касьцёл. Больш складанай была сытуацыя ў мясьцінах, у якіх уніяцкія парафіі паўставалі на базе праваслаўных прыходаў. Выточным пунктам гэтай працэдуры мела быць воля праваслаўнага насельніцтва далучыцца да Каталіцкай царквы ўсходняга абраду, пададзеная ў форме пісьмовага хадайніцтва адпаведнаму біскупу. Як правіла, гэтая воля была абумоўленая цяжкай сытуацыяй Праваслаўнай царквы: у 20–х гадох на заходнебеларускіх землях было шмат праваслаўных прыходаў безь сьвятароў, і з прычыны нястачы ўласнага душпастырства праваслаўныя прыхаджане часам прымалі ўніяцкага сьвятара. Такім парадкам узьніклі парафіі ў Курашаве і Касной Бельскага павету, у Фастах каля Беластоку і ў Дзяляцічах Навагрудзкага павету.

Ня раз здараліся выпадкі, калі праваслаўны сьвятар, насуперак волі свайго кіраўніцтва, заяўляў аб пераходзе да уніі і зацьвярджаўся каталіцкай курыяй пробашчам сваёй дагэтулешняй парафіі. Дзеля гэтага ўзьнікалі новыя канфлікты, гэтым разам зь незадаволеным такім пераходам насельніцтвам, што прыводзіла да судовых працэсаў, у выніку якіх цэрквы вярталіся праваслаўнай герархіі. Такія выпадкі адзначаліся ў Галомысьле на Дзісеншчыне, у Паставах, Ятвеску на Гарадзеншчыне і з трохі іншых прычынаў у Курашаве. Ясная рэч, такія выпадкі кампрамэтавалі ўнійную кампанію і ставілі пад пытаньне сумленнасьць праваслаўных сьвятароў.

Такім чынам, мэтады ўнійнай кампаніі розьніліся. Абвінавачаньні апанэнтаў, што яе навязваюць сузвыш, былі нелягічныя, бо ў міжваенную пару такіх магчымасьцяў не было. Аднак цяжка пагадзіцца зь меркаваньнем аб масавым пераходзе праваслаўнага насельніцтва ў новую Унію. Пра гэта сьведчаць вынікі гэтай кампаніі.

Паводле дыяцэзійных зьвестак, пры канцы 1938 г. на тэрыторыі Віленскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі працавала ўсяго 17 парафіяў бізантыйска–славянскага абраду (гл. табліцу). Сярод іх былі 6 наваствораных манаскіх парафіяў, а адна (у Зэльвянах) была філіяй суседняга рыма–каталіцкага касьцёла ў Пясках. Гэта значыць, што Унію прынялі (цалкам ці часткова) ня больш за 10 праваслаўных прыходаў.

На мізэрныя вынікі нэаўнійнай акцыі паказвае таксама статыстыка вернікаў. У Пінскай дыяцэзіі агульная колькасьць вернікаў усходняга абраду ў 1927—1938 гадох зьменшылася з 8648 да 5890 чалавек, г.зн. на 32%, і гэта пры адначасным росьце колькасьці парафіяў з 7 да 11.

Яшчэ сьціплейшымі вынікамі адзначалася Віленская архідыяцэзія. Пры канцы 1938 г. парафія ў Альбярціне налічвала 719 вернікаў, у Фастах — 999 і ў Сынкавічах — 1425, прычым гэтая апошняя, напэўна, часткова ахоплівала рыма–каталікоў. Паводле зьвестак адміністрацыі ваяводзтва, парафія ў Вільні налічвала 140 чалавек. Такім чынам, у чатырох названых парафіях колькасьць вернікаў усходняга абраду не перасягала 3300 (без парафіяў у Зэльвянах і Сьвіслачы, пра якія не было статыстычных зьвестак).

Можна, аднак, меркаваць, што афіцыйная царкоўная статыстыка трохі завышала вынікі ўнійнай кампаніі. Пра гэта сьведчыць інфармацыя адміністрацыі ваяводзтва ў Беластоку, паводле якой у 1938 г. парафіі ў Курашаве і Касной разам налічвалася 380

[17] У Сынкавічах, як вядома, выкарыстоўвалася знакамітая царква–крэпасьць, якая, пабудаваная як праваслаўны храм, пасьля Берасьцейскае уніі была ўніяцкаю царквою. — *А.С.*

вернікаў, а ў Фастах — 582, г.зн. значна меней, чым падавала царкоўная статыстыка[18]. Таму зь вялікай імавернасьцю можна сьцьвярджаць, што напярэдадні другой сусьветнай вайны колькасьць каталікоў усходняга абраду ў Заходняй Беларусі не перасягала 10 тыс. асобаў.

Гэтыя падлікі паказваюць, што для Праваслаўнай царквы, якая налічвала на заходнебеларускіх землях каля 2 млн. вернікаў, нэаўнійная кампанія не складала рэальнай канкурэнцыі. Значна большую пагрозу ўяўляла дзейнасьць Рыма–каталіцкай царквы, у якую ў міжваеннай Польшчы ўступіла каля 200 тыс. праваслаўных[19]. З гэтай прычыны нэаўнійная кампанія выклікала досыць памяркоўную рэакцыю праваслаўнага боку.

Якія былі прычыны слабых вынікаў нэаўнійнай кампаніі? Напачатку заўважым, што яе нармальнае разьвіцьцё доўжылася ўсяго колькі гадоў — ад 1925 да 1932 г. У ёй удзельнічала духавенства колькіх нацыянальнасьцяў: беларусы, украінцы, палякі, расейцы, нават галяндцы. У залежнасьці ад сваіх магчымасьцяў яны праводзілі душпастырскую працу на беларускай, украінскай, расейскай, але не на польскай мове. Сярод гэтага духавенства працавала адносна значная група беларусаў: Вацлаў Аношка, Васіль Гапановіч, Ян Панько, Баляслаў Пачобка, Канстанцін Сангайла, езуіты Антон Дуброўскі і Антон Неманцэвіч, высьвечаны толькі ў 1937 г. Леў Гарошка і іншыя.

На базе некаторых уніяцкіх парафіяў разьвівалася беларуская культурная дзейнасьць. У Альпені на Палесьсі працаваў беларускі драматычны калектыў, якім кіравала Вера

**Лічба вернікаў у парафіях усходняга абраду**

| **Парафія** | **Павет** | **1927** | **1938** |
|---|---|---|---|
| **Пінская дыяцэзія** | агулам | 6848 | 5890 |
| у тым ліку: | | | |
| Бабровічы | Косава | 1180 | 1067 |
| Дзяляцічы | Наваградак | 1638 | 1500 |
| Гарадная | Столін | 350 | 365 |
| Касная | Бельск Падл. | 1000 | 100 |
| Курашава | Бельск Падл. | 900 | ... |
| Любашоў | Кошыр | – | ... |
| Альпень | Столін | 380 | 400 |
| — філія Мярлінскія хутары | | – | 500 |
| Стоўпцы | Стоўпцы | – | ... |
| Тараканы | Кобрын | 2500 | 500 |
| Зарэчча | Пінск | – | ... |
| Збураж | Берасьце | – | ... |
| **Віленская архідыяцэзія** | агулам | ... | ... |
| у тым ліку: | | | |
| Альбярцін | Слонім | 200 | 719 |
| Фасты | Беласток | ... | 999 |
| Сынкавічы | Слонім | 200 | 1425 |
| Сьвіслач | Ваўкавыск | ... | ... |
| Вільня | – | 140[a] | 140[a] |
| Зэльвяны | Ваўкавыск | ... | ... |

[a] ацэнка адміністрацыі віленскага ваяводзтва

*Крыніца:* Catalogus ecclesiarum et cleri archidioecesis vilnensis. Vilnae, 1928 і 1939; Elenchus ecclesiarum et cleri dioecesis pinscensis. Pińsk, 1928 і 1939.

[18] AAN, MWRiOP, syg. 385, справаздача ваяводзкай адміністрацыі ў Вільні, студзень, 1939.

[19] Гарошка Л. Пад знакам...

Карчэўская — арганізатарка антыпольскага падпольля на Беласточчыне ў 1921—1922 гадох і гераіня судовага працэсу над 45 беларусамі ў Беластоку ў 1923 г.[20]. Не выпадкова ў студзені 1939 г. начальнік грамадзка–палітычнага аддзелу ўраду ваяводзтва ў Навагрудку паведамляў: "Дзейнасьць каталіцкага духавенства бізантыйска–славянскага абраду не магу прызнаць пазытыўнай з увагі ня толькі на прапагандаваньне сярод вернікаў беларускай мовы, але пашырэньне выразных нацыяналістычна–беларускіх тэндэнцыяў"[21]. Адначасна беластоцкі ваявода ўгледжваў вялікую небясьпеку ў функцыянаваньні ўніяцкіх грамадаў у Фастах, Курашаве і Касной, якія "пры кансэрвацыі царкоўна–славянскай абраднасьці захоўваюць у жыцьці клеру і парафіян беларускую мову", і патрабаваў закрыцьця гэтых парафіяў[22].

У студзені 1939 г. палескі ваявода, Вацлаў Костэк–Бярнацкі[23], востра крытыкаваў унійную кампанію, якая "пастаянна выклікае сваім нацыянальным апартунізмам надзвычай шкодныя для польскай асыміляцыі вынікі", і паказваў на Альпень, у якім "выключна агрэсіўным" чынам разьвіваецца беларускі нацыяналізм[24]. Ацэньваючы Унію як пагрозу для польскіх усходніх крэсаў, Костэк–Бярнацкі ўжываў разнастайныя рэпрэсіі да духавенства, забараняў будаваць новыя храмы, а ў ліпені 1939 г. закрыў уніяцкую капліцу ўва Ўгрынічах на Палесьсі[25].

У выніку варожага стаўленьня польскай адміністрацыі да тэндэнцыяў беларусізацыі ўніяцкіх парафіяў пасьля 1932 г. у Заходняй Беларусі ня ўзьнікла ніводнай уніяцкай грамады, а ў 1937 г. было забароненае выданьне месячніка "Да Злучэньня". Гэты месячнік, праўда, выдаваўся яшчэ пэўны час, але пад новай назвай "Złučeńnie" і лацінскім алфавітам, а рэдакцыя была вымушаная пераехаць з Альбярціна ў Варшаву, дзе для гэтай дзейнасьці былі трохі лепшыя варункі, чым на "крэсах".

У лютым 1939 г. дырэктар дэпартамэнту міністэрства веравызнаньняў і народнай асьветы Г. Дунін–Баркоўскі, гэтак падсумаваў стаўленьне польскай дзяржавы да новай Уніі:

> У нашым змаганьні зь бізантыйскім абрадам мы ставім *pro foro externo* на першым месцы не тэарэтычныя дыскусіі на тэму той ці іншай канцэпцыі, але пастулят палянізацыі. Прынцыповы мінус усходняга абраду ў тым, што ён становіцца дзьвярамі, праз якія няпольскі элемэнт пад ціскам дзяржаўнай палітыкі пранікае на тэрыторыі іншых канфэсіяў. Таму гэтыя дзьверы трэба зачыніць. Але толькі ліквідаваць бізантыйскія грамады не дастаткова, калі гэта не пацягне за сабой ліквідацыі самой унійнай канцэпцыі, якая, незалежна ад таго, рэалізуецца яна на тэрыторыі Польшчы ці не, уяўляе, нават застаючыся тэарэтычнай магчымасьцю, прывабны чыньнік для насельніцтва, якое ня хоча паддавацца дзяржаўнай палітыцы, што ажыцьцяўляецца ці то на ўчастку каталіцызму лацінскага абраду, ці таксама й на праваслаўным. У той жа час пералічэньне прыкладаў, што гэтая унія, нават калі б яе дапусьцілі, павінна цалкам улічваць польскую культуру, заганяе насельніцтва, якое ня вызначылася з сваім нацыянальным выбарам, у замкнёнае кола, якое не дае іншае альтэрнатывы, апроч той, якая прадыктаваная патрабаваньнем інтарэсаў Польскай дзяржавы, і пазбаўляе нэаўнійную канцэпцыю ў вачох гэтага насельніцтва найбольш прывабнага моманту[26].

[20] Туронак Ю. Непакорная Вера. С. 820—826 у гэтым выд. — *Рэд.*

[21] AAN, MWRiOP, syg. 385, справаздача навагрудзкага ваяводы ад 19.01.1939.

[22] Тамсама, справаздача навагрудзкага ваяводы за 1938 г.

[23] Костэк–Бярнацкі Вацлаў (1882—1967) — польскі вайсковы і дзяржаўны дзяяч, адзін з паплечнікаў Ю. Пілсудзкага. У 1930—1931 г. быў камэндантам Берасьцейскае крэпасьці, з 1931 г. — навагрудзкім, з 1932 г. — палескім ваяводам. Адзін з заснавальнікаў канцэнтрацыйнага лягеру ў Бярозе Картускай. Пасьля другой сусьветнай вайны арыштаваны польскімі камуністычнымі ўладамі, на працягу 10 гадоў зьняволены. — *А.П.*

[24] Тамсама, справаздача палескага ваяводы ад 14.01.1939 г.

[25] Гарошка Л. Пад знакам...

[26] AAN, MWRiOP, syg. 385, Прамова Г. Дунін–Бароўскага.

Такім чынам, польскі ўрад не выключаў магчымасьці падтрымкі ўнійнай кампаніі, калі б яна спрыяла дзяржаўнай палітыцы асыміляцыі беларусаў і ўкраінцаў. Уніяцкае духавенства, аднак, не згаджалася з такім палітычным пастулятам і з гэтай прычыны было пазбаўленае магчымасьці нармальнай дзейнасьці. У гэтым кантэксьце істотную ролю адыгрывалі страхі адміністрацыі, што, паводле яе ацэнак, унійная дзейнасьць уяўляе пагрозу для палітыкі палянізацыі праваслаўя, якую прыняла і ажыцьцяўляла герархія Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Дадамо, што ў 1938/1939 навучальным годзе ў навагрудзкім ваяводзтве 70% праваслаўных сьвятароў выкладалі рэлігію ў дзяржаўных школах на польскай мове, а ў палескім ваяводзтве гэты прадмет выкладалі па–польску ўва ўсіх школах[27]. Пры такім стане рэчаў ідэя уніі была альтэрнатыўнай для праваслаўнага насельніцтва, якое не прымала польскай мовы ў царкоўнай сфэры.

Можна меркаваць, што нэаўнійная кампанія на заходнебеларускіх землях у міжваенную пару ня мела спадзеўнай пэрспэктывы. Па–першае, ня зьдзейсьніліся надзеі Апостальскай сталіцы на магчымасьць місіянэрскай працы ў СССР, у зьвязку з чым канцэпцыя “інтэрнацыяналізацыі” ўсходняга абраду аказалася ў найлепшым выпадку непатрэбнай. Па–другое, з пункту гледжаньня палітычных інтарэсаў польскай дзяржавы Нэаунія не магла разьвівацца шляхам галіцкай Грэка–каталіцкай царквы, г.зн. нацыянальным шляхам.

Аднак варта заўважыць, што ў меру назапашваньня досьведу ўнійная дзейнасьць зь цягам часу, нягледзячы на супраціў польскай адміністрацыі, усё выразьней станавілася на шлях нацыянальнай канцэпцыі. Напэўна, гэта паўплывала на рэвізію спачатных прынцыпаў ватыканскай палітыкі, пра што сьведчыць абвешчаная ў траўні 1937 г. інструкцыя Апостальскай сталіцы аб абавязковым ужываньні ўва ўнійнай працы роднай мовы мясцовага насельніцтва[28]. Праўдападобна, гэтая інструкцыя канчаткова разьвеяла ілюзіі польскіх уладаў і спрычынілася да больш жорсткага іх стаўленьня да уніі, пра што сьведчыць цытаванае выказваньне Дуніна–Баркоўскага.

Увосень 1939 г. пасьля далучэньня заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх земляў да СССР мітрапаліт Шаптыцкі плянаваў пашырыць унійную працу на ўсходзе. З гэтай мэтай 9 кастрычніка 1939 г. ён стварыў чатыры экзархаты, у тым ліку беларускі, прызначыўшы яго экзархам айца Антона Неманцэвіча. 22 лістапада 1941 г. Пій XII зацьвердзіў рашэньне мітрапаліта, санкцыянуючы гэтым чынам яго кіраўнічую ролю ў справах Грэка–каталіцкай царквы ў Беларусі. Гэта азначала выхад уніяцкіх парафіяў на яе тэрыторыі з–пад дагэтулешняй юрысдыкцыі рыма–каталіцкай герархіі ў Польшчы[29].

Пасьля зацьверджаньня Апостальскай сталіцай 5 студзеня 1942 г., то бок ува ўмовах нямецкай акупацыі, айцец Неманцэвіч зьвярнуўся ў генэральны камісарыят у Менску з просьбай аб легалізацыі ягонага статусу першага экзарха Грэка–каталіцкай царквы ў Беларусі. 16 сакавіка 1942 г. а. Неманцэвіч атрымаў згоду генэральнага камісара Вільгельма Кубэ, пасьля чаго распачаў афіцыйную дзейнасьць. Сядзіба экзархату месьцілася ў Альбярціне[30].

Стварэньне экзархату, аднак, не паўплывала на актывізацыю дзейнасьці Грэка–Каталіцкай царквы ў Беларусі. Бо ўжо ў часе савецкай улады (верасень 1939 — чэрвень 1941) некаторыя парафіі (у прыватнасьці, у Курашаве і Касной) вярнуліся да праваслаўя, дарма што ў тую пару яшчэ не адзначалася ціску ўладаў. Затое антыўнійнае супрацьдзеяньне праваслаўнага духавенства і сьвецкага актыву ўзмацнілася ў часе нямецкай акупацыі.

Паводле справаздачы а. Неманцэвіча, прэзэнтаванай 9 чэрвеня 1942 г. на нарадзе

[27] Тамсама. Справадача навагрудзкага і палескага ваяводаў, студзень 1939 г.

[28] Гарошка Л. Пад знакам...

[29] Prus E. Władyka... S. 192, 196.

[30] Ibidem. S. 255.

экзархаў у Львове, за кароткі час яго легальнай дзейнасьці, г.зн. ад 16 сакавіка 1942 г., праваслаўнымі былі перанятыя дзьве ўніяцкія царквы[31]. Летам 1942 г. у выніку іх даносу а. Неманцэвіч быў арыштаваны нямецкай паліцыяй і закатаваны ў менскай турме[32]. Адначасна быў ліквідаваны кляштар езуітаў у Альбярціне, а тэрарызаваны праваслаўнымі дзячамі намесьнік экзарха а. Леў Гарошка быў вымушаны зьехаць з Альбярціна ў Баранавічы, дзе заняўся пэдагагічнай працай[33].

Шмат што паказвае, што праваслаўнае насельніцтва на беларускіх землях у значнай меры выяўляла абыякавасьць як да ўнійнай акцыі, так і да праваслаўнай рэакцыі. У 20–х гадох насельніцтва некаторых праваслаўных парафіяў сапраўды прымала ўніяцкіх сьвятароў, аднак магло прыняць і праваслаўных, калі б такая магчымасьць была. Не пратэставала яно і ў часе вайны, калі перасьледавалі ўніяцкіх сьвятароў і вярталі праваслаўных. Важным жа быў перадусім абрад, а не тэалягічныя тонкасьці, пра якія вернікі, праўдападобна, ня мелі глыбейшага паняцьця. Вось характэрны прыклад: у студзені 1928 г. сотні жыхароў праваслаўнага прыходу ў Фастах падпісалі просьбу аб іх далучэньні да Каталіцкай царквы ўсходняга абраду, а летам 1944 г., калі іх уніяцкі пробашч Васіль Гапановіч пакінуў прыход і выехаў на Захад, сотні тых жа прыхаджан падпісалі пэтыцыю аб іх далучэньні да Праваслаўнай царквы. Падобным быў фінал дзейнасьці астатніх уніяцкіх парафіяў.

Такім чынам, выглядала на тое, што, нягледзячы на высілкі каталіцкага духавенства ў міжваенную пару, новая унія ня стала значным чыньнікам на канфэсійнай мапе Беларусі. У 1938 г. да гэтай царквы фармальна належала ня больш за 0,5% праваслаўных жыхароў заходнебеларускіх земляў, што ў значнай меры абумоўлівала яе слабую грамадзкую пазыцыю і няздольнасьць даць рады цяжкасьцям ваеннага часу і паваенных гадоў. У 1944 г. не без узьдзеяньня савецкіх уладаў дзейнасьць гэтай царквы на шмат гадоў перарвалася. Нічога не вядома таксама і пра яе дзейнасьць “у катакомбах”[34].

Таму на працягу без малога пяцьдзесяцёх паваенных гадоў ідэя уніі рэальна культывавалася выключна ў беларускіх асяродзьдзях на эміграцыі. Пачыналі фактычна з нуля: у 1945 г. у Заходняй Эўропе знаходзіліся толькі два маладыя каталіцкія сьвятары ўсходняга абраду — а. Часлаў Сіповіч і а. Леў Гарошка, які прыехаў зь Беларусі. Вельмі невялікай была таксама і колькасьць беларускіх уніятаў, якія па вайне пасяліліся ў краінах Заходняй Эўропы. Напэўна, з гэтай прычыны абодва сьвятары зьбіраліся працаваць як сярод эмігрантаў праваслаўнага вызнаньня, так і каталікоў лацінскага абраду. Гэта абуджала асьцярогі праваслаўных дзячоў перад каталіцкай канкурэнцыяй, што адлюстроўвала вострая палеміка ў беларускай эміграцыйнай прэсе.

Неўзабаве пасьля вайны ў выніку намаганьняў аа. Сіповіча і Гарошкі ватыканская Ўсходняя кангрэгацыя прыняла рашэньне адкрыць дзьве беларускія каталіцкія місіі ўсходняга абраду. Першая зь іх была створаная 16 кастрычніка 1946 г. у Парыжы, а другая — 27 лістапада 1947 г. у Лёндане. Парыская місія ня мела ўласнага храму і карысталася з гасьціннасьці францускіх рыма–каталіцкіх касьцёлаў. З увагі на мізэрную колькасьць вернікаў яе душпастырская дзейнасьць была вельмі абмежаваная, а па сьмерці яе шматгадовага рэктара а. Гарошкі (1977 г.) пачала згасаць. Гэтая місія існуе ўжо толькі намінальна. Яе важным наробкам, асабліва а. Гарошкі, быў выдаваны ў 1947—1957 гадох у Парыжы часопіс “Божым Шляхам” — унікальная энцыкляпэдыя беларускага рэлігійнага жыцьця ў краіне і на эміграцыі.

Шырэй разгарнулася дзейнасьць лёнданскай місіі, у вялікай меры дзякуючы высілкам

[31] Ibidem. S. 255.

[32] Экзарх Антон Неманцэвіч памёр у турме СД 6 студзеня 1943 г. — *А.С.*

[33] Божым Шляхам. 1947. № 1.

[34] Аўтару, мусіць, невядома было пра высьвячэньне ў 1976 г. катакомбным мітрапалітам Уладзімерам Стэрнюком на грэка–каталіцкага сьвятара Віктара Данілава, пра дзейнасьць базылянаў у Слоніме, Лагішыне і Пінску, а таксама грэка–каталіцкіх манахіняў з супольнасьці “Дзеці Марыі”. — *А.С.*

а. Сіповіча — яе першага рэктара, пазьнейшага (ад 1960 г.) біскупа і апостальскага візытатара для беларускіх каталікоў абодвух абрадаў на эміграцыі[35]. Апроч місіі, тут быў заснаваны кляштар айцоў марыянаў з уласнай капліцай, была арганізавана школа ім. Кірылы Тураўскага для хлопцаў, якая дзейнічала ў 1960—1971 гадох, было адноўлена выданьне часопіса “Божым Шляхам”, выдаваліся кніжкі на рэлігійную і іншую тэматыку.

На базе лёнданскага каталіцкага асяродку ў 1954 паўстала Англа–беларускае таварыства, якое на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў ажыццяўляла плённую навуковую дзейнасьць — арганізоўвала міжнародныя сымпозіюмы беларусістаў, выдавала квартальнік “The Journal of Byelorussian Studies” і інш. Былі таксама створаныя Беларуская бібліятэка і музэй імя Францішка Скарыны, вядомыя і паважаныя зацікаўленымі дасьледнікамі з многіх краін, былі сабраныя багатыя архівы. Па сьмерці біскупа Сіповіча (1981 г.) дзейнасьцю асяродку кіраваў а. Аляксандар Надсан. Аднак цяжка сказаць, у якой меры гэтая шматбаковая і карысная дзейнасьць асяродку ўплывала на рэалізацыю душпастырскіх мэтаў лёнданскай місіі ўсходняга абраду.

Заслугоўвае ўвагі нетыповая генэза трэцяга каталіцкага асяродку ўсходняга абраду ў Чыкага (ЗША), у якім па вайне пасялілася пэўная колькасьць беларускіх эмігрантаў — праваслаўных і каталікоў. У 1955 г. тут абмяркоўвалася, мабыць, каталіцкая ініцыятыва пабудовы супольнай сьвятыні, аднак яна была адкінутая праваслаўным бокам. Нягледзячы на гэта, з згоды мясцовай рыма–каталіцкай герархіі была створаная парафія ўсходняга абраду, у якую ўступілі беларусы — каталікі лацінскага абраду. У ёй шмат гадоў працавалі бэнэдыктынцы ўсходняга абраду з блізкага кляштару ў Лісл–Ілінойсе — айцы Язэп Рэшаць, Ян Тарасевіч і Ўладзімер Тарасевіч. Па сьмерці беларускіх бэнэдыктынцаў парафію абслугоўваюць амэрыканскія сьвятары[36].

Шматгадовая праца эміграцыйных асяродкаў, аднак, зрабіла пэўны ўплыў на ўзнаўленьне дзейнасьці Грэка–каталіцкай царквы ў Беларусі ў 90–х гадох. Як і на пачатку стагодзьдзя, энтузіясты гэтай справы галоўным чынам кіруюцца матывам стварэньня ў Беларусі незалежнай ад расейскіх (праваслаўе) і польскіх (каталіцтва)[37] уплываў нацыянальнай царквы, якая б удзельнічала ў працэсе нацыянальнага адраджэньня.

Прапагандаваньне гэтай ідэі ўжо ў 1989—1990 гадох распачалі інтэлігенцкія асяродзьдзі ў Менску. Выходзіла з забыцьця гісторыя Уніі ў Беларусі ў XVI—XIX стагодзьдзях, выразам чаго былі шматлікія публікацыі ў беларускай пэрыёдыцы. У 1990 г. пачаў выходзіць часопіс “Унія”, які змагаўся зь фінансавымі цяжкасьцямі і выходзіў рэдка. У 1995 г. пачаў выходзіць задуманы як месячнік папулярны часопіс “Царква”[38].

Вынікі гэтай дзейнасьці, аднак, дагэтуль вельмі сьціплыя, асабліва ў параўнаньні з актыўнасьцю Праваслаўнай, Каталіцкай (лацінскага абраду) цэркваў і пратэстанцкіх канфэсіяў. На пачатку 1995 г. у Беларусі агулам існавала 10 зарэгістраваных грэка–каталіцкіх суполак — у Менску (дзьве), у Полацку, Віцебску[39], Магілёве, Гомелі, Берасьці, Лідзе, Горадні і Маладэчне[40]. Апроч таго, пачалася работа па выбудове кляштару

[35] Больш падрабязна пра дзейнасьць біскупа Часлава Сіповіча і лёнданскае місіі гл.: Надсан А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Менск, 2004. — *А.С.*

[36] Божым Шляхам. 1965. № 91 і 1980. № 151.

[37] Пытаньне пра незалежнасьць беларускага каталіцтва ад Польшчы перастала быць актуальным пасьля таго, як у Беларусі паўстала ўласная, у вялікай меры беларусізаваная Рыма–каталіцкая царква з сваімі дзьвюма вышэйшымі духоўнымі сэмінарыямі. — *А.С.*

[38] Квартальнік “Царква” аднесены да газэтаў. — *А.С.*

[39] У Віцебску маюцца дзьве парафіі. — А.С.

[40] Царква. 1995. № 1. — *Ю.Т.*

Цяпер парафіі дзейнічаюць таксама ў Баранавічах, Івацэвічах, Пінску і Слоніме. Маюцца і яшчэ незарэгістраваныя парафіі. З улікам гэтага ўсе яны ў 2006 г. падзеленыя на два протапрэсьвітэрыты з цэнтрамі ў Полацку (Віцебская, Гомельская і Магілёўская вобласьці) і Менску (цэнтральная і заходняя часткі краіны). — *А.С.*

айцоў студытаў у Полацку[41]. У сельскай жа мясцовасьці ня ўзьнікла ніводнай грамады.

Грэка–каталіцкая царква ў Беларусі дагэтуль ня мае свайго біскупа і падпарадкаваная беспасярэдне Апостальскай сталіцы[42]. Існыя парафіі абслугоўваюць усяго пяць сьвятароў[43], некалькі чалавек навучаюцца ў духоўных сэмінарыях за мяжой. Толькі ў 1996 г. грэка–каталікі атрымалі ўласную капліцу ў Магілёве, а астатнія суполкі карыстаюцца часовымі памяшканьнямі, не прыстасаванымі для літургічных мэтаў[44]. Няма нават прыблізных ацэнак колькасьці вернікаў.

Такім чынам, сытуацыя Грэка–каталіцкай царквы ў Беларусі цяжкая, а яе пэрспэктыва няпэўная. Гэта зьвязана ня толькі з стрыманым стаўленьнем да яе дзяржаўных уладаў, якія аддаюць перавагу праваслаўю і каталіцызму лацінскага абраду, пра што сьведчыць палітыка вяртаньня храмаў, забраных за савецкім часам. Слабасьць гэтай царквы ў вялікай меры абумоўлівае абыякавасьць насельніцтва, часткова атэізаванага, часткова ж ляяльнага праваслаўю. Стаўленьне людзей было важным чыньнікам мізэрных дасягненьняў унійнай дзейнасьці як у міжваенную пару, на эміграцыі, так і ў сучасных варунках свабоды веравызнаньня.

*Пераклад зроблены паводле:* Warszawskie Zeszyty Ukrainoznawcze 4—5. Warszawa, 1997.

[41] У Полацку дзейнічае Барысаглебскі манастыр студытаў. — *А.С.*

[42] З 1993 г. грэка–каталіцкімі парафіямі ў Беларусі апякуецца Дэлегат Кангрэгацыі ўсходніх абрадаў, з 1994 г. — Апостальскі візытатар для грэка–каталікоў Беларусі. У 1996 г. ён узьведзены ў сан архімандрыта, а пазьней атрымаў некаторыя біскупскія правы. У прыватнасьці, ён разам з рыма–каталіцкімі біскупамі складаў у 2003 г. візыт *ad limina Apostolorum* (да магілаў Апосталаў), падчас якога адбываецца аўдыенцыя–справаздача ў Сьвятога айца — *А.С.*

[43] Цяпер у парафіях служаць дзесяць сьвятароў, а ў сэмінарыях навучаюцца 10 сэмінарыстаў. — *А.С.*

[44] ЛіМ. 1996. № 36. — *Ю.Т.*

Царква Параскевы Полацкай дзейнічае ў Полацку. У Віцебску, Берасьці, Івацэвічах, Лідзе, Маладэчне і Менску пабудаваныя дамы з капліцамі. Парафіі карыстаюцца таксама з гасьціннасьці рыма–каталікоў. — *А.С.*

# Канфэсійныя трансфармацыі на Беларусі і нацыянальная самасьвядомасьць

Стык каталіцызму і праваслаўя, а адначасова лацінскай і бізантыйскай культур быў спэцыфічным фактарам гісторыі Беларусі, зыходным пунктам яе разнастайных інтэрпрэтацыяў і палітычных інсьпірацыяў. Ён меў істотны ўплыў і на працэсы фармаваньня нацыянальнай самасьвядомасьці яе жыхароў.

Згодна з загадам Ягайлы ад 22 лютага 1387 г., усе літоўцы (балты) — жыхары Вялікага Княства Літоўскага — былі абавязаны прыняць каталіцкую веру[1]. У той час яны жылі як на тэрыторыі сучаснай Літвы, так і на паўночна–заходніх абшарах сучаснай Беларусі, якія былі шырокай зонай зьмешанага славяна–балцкага насельніцтва. Нам вядомы спробы разьмежаваньня абодвух этнасаў у XIII—XVI ст., аднак яны паказвалі максымальны абсяг пасяленьня славянаў ці балтаў, а ня іх разьмежаваньне ўнутры гэтай зоны, дзе густа перапляталася насельніцтва русінскае зь літоўскім, яцьвяскім, прускім і іншым.

Фармальна дэкрэт Ягайлы ня тычыўся праваслаўных русінаў, якія толькі па сваёй волі маглі прымаць каталіцкую веру. Аднак, маючы на мэце ўмацаваньне гэтай веры, ён агаворваў, што ў выпадку зьмешаных шлюбаў праваслаўны бок абавязваўся прыняць каталіцызм. Так была прыпынена экспансія праваслаўя сярод літоўцаў, што ўсё ж не ўратавала іх ад моўнай беларусізацыі. У выніку колішнія балты з пэўным дамешкам русінскай крыві станавіліся каталіцкай часткай беларускага народу.

Да паловы XVI ст. пашырэньне каталіцызму на Беларусі па сутнасьці абмяжоўвалася да яе паўночна–заходняга рэгіёну — славяна–балцкай зьмешанай зоны, прыкладна паміж сучаснай граніцай зь Літвой і лініяй Пружаны—Клецак—Менск—Іказьнь. У 1550 г. на гэтым абшары дзейнічала 136 каталіцкіх парафіяў, г.зн. амаль 90% іх агульнай колькасьці на Беларусі[2].

Тут праз стагодзьдзі каталіцкія касьцёлы існавалі побач з праваслаўнымі (пазьней — уніяцкімі) цэрквамі, прычым тут і адны, і другія будаваліся фундатарамі абедзьвюх канфэсіяў у залежнасьці ад веравызнаньня падданых.

Новая вера, якая стала афіцыйнай ідэалёгіяй ВКЛ, дыскрымінавала праваслаўную эліту, якая пазбаўлялася права займаць кіраўнічыя пасады ў дзяржаве. Барацьба гэтай эліты за раўнапраўе працягвалася праз цэлае XV ст., а яе найбольш драматычным эпізодам было паўстаньне Сьвідрыгайлы, грамадзянская вайна 30–х гадоў і часовы распад дзяржавы на Вялікае Княства Літоўскае і Вялікае Княства Рускае. Канец гэтай барацьбе фармальна паклаў прывілей караля Жыгімонта Аўгуста (1563 г.)[3], хаця фактычна спынілася яна на пачатку XVI ст. пасьля дапушчэньня праваслаўных вяльможаў (Астроскага, Хадкевіча і іншых) да ўдзелу ў Радзе ВКЛ[4].

Выглядала на тое, што дасягненьне юрыдычнага раўнапраўя павінна было паспрыяць умацаваньню тых традыцыйных ідэйных вартасьцяў (праваслаўе, беларушчына), за якія быццам ішло змаганьне. Аднак на справе адбылося адваротнае. Раўнапраўнасьць

[1] Туронак Ю. Фармаваньне сеткі рыма–каталіцкіх парафіяў у Беларусі (1387—1781). С. 405—418 гэтага выд. — *Рэд.*

[2] Тамсама.

[3] Прывілеем Жыгімонта Аўгуста ад 7 чэрвеня 1563 г. абвяшчаліся роўныя правы праваслаўнай шляхты з каталіцкай. Ён юрыдычна скасоўваў дыскрымінацыйныя для праваслаўных нормы, прынятыя Гарадзельскім актам 1413 г. — *А.П.*

[4] У канцы XVIII ст. да Ўніяцкай царквы належала каля 75% жыхароў Беларусі. Гл. заўвагу 1 да артыкула “Спробы адраджэньня Ўніяцкай царквы ў Беларусі ў XX стагодзьдзі” ў гэтай кнізе. — *А.С.*

русінскай эліты адкрыла пэрспэктыву яе ўдзелу ў дзяржаўнай сфэры, што пасьлядоўна павялічвала яе зацікаўленасьць у здабываньні асьветы, якой не магла даць Праваслаўная царква. У пошуках адукацыі маладыя русіны ехалі за мяжу, найчасьцей у Кракаў, адкуль прывозілі ня толькі рэфармацыйныя ідэі, але і пальшчызну.

Аксіёмай беларускай гістарыяграфіі (і палітыкі) стала тэза аб "польска–ватыканскай агрэсіі" як прычыне нацыянальных нягодаў, у прыватнасьці — палянізацыі эліты. Паслухайма, аднак, вядомых ідэолягаў рэфармацыі: ужо ў 1562 г. Сымон Будны заклікаў Радзівілаў: "Абыся ваши княжацкие милости не только в чужоземских языцех кохали, алебы ся тежь... и того здавна славного языка словеньского розмиловати и оным ся бавити рачили", а празь некалькі гадоў Васіль Цяпінскі недвухсэнсоўна пісаў пра "занедбане, а просто взгарду" роднай мовы, так ацэньваючы прычыну гэтай зьявы:

> А наостаток, што может быти жалоснейша, што шкарадша, иж и тые што межи нами зовут духовными и учители, смеле мовлю, намней его (свайго языка. — *Ю.Т.*) не вмеют, намней его вырозуменя не знают, ани се в ним цвичат, але ани школы ку науце его нигде не мают, зачим в польские або в иные писма за такою неволею... немалого заправуют[5].

Выказваньні Буднага і Цяпінскага паказваюць, што нацыянальная трансфармацыя русінскай эліты ВКЛ была вядомым фактам ужо ў палове XVI ст., калі яшчэ не было Люблінскай уніі, не існавалі езуіцкія калегіюмы і акадэмія. Па–другое, яны сьведчаць, што распаўсюджаньне ідэяў Рэфармацыі і Контрарэфармацыі пачынаўся на беларускай мове і толькі няведаньне яе ці слабое веданьне прымушала іх прапаведнікаў паслугоўвацца польскай мовай як больш зразумелай "княжацким милостям". Калі б было інакш, контрарэфармацыйная прапаганда езуітаў і іх асьветная дзейнасьць не адбывалася б на польскай мове, але на беларускай, аб чым сьведчыць выдадзены імі ў Вільні каталіцкі "Катехизм" кірылічным шрыфтам[6]. Дарэчы, на такі шлях неўзабаве ступілі і ідэолягі праваслаўя (гл.: Сматрыцкі Мялет. Трэнас. Вільня, 1610. На польскай мове).

Фэномэнам тагачасных падзеяў было тое, што, прыняўшы польскую культуру, а за ёй і каталіцкую веру (а не наадварот), русінская эліта ВКЛ амаль нічога не зрабіла, а можа, не пасьпела зрабіць для падобнай трансфармацыі народу. Наўрад ці можна сумнявацца ў тым, што, кіруючыся прынцыпам *cuius regio eius religio*[7], яна магла прымусіць сваіх падданых прыняць новую веру так, як гэта адбывалася ў іншых краінах Эўропы. Такі крок судзеяў бы ідэйнай кансалідацыі насельніцтва, у прыватнасьці, прадухіліў бы адчужэньне эліты ад ніжэйшых пластоў грамадзтва. Менавіта вынікі гэтага ў сфэры агульнанацыянальнай самасьвядомасьці адчуваюцца і па сёньняшні дзень. Непажаданую магчымасьць лацінізацыі несумненна адчувала герархія Праваслаўнай царквы, якая, страціўшы ранейшых магутных апекуноў, магла разьлічваць ужо толькі на ўласныя сілы, а былі яны недастатковыя для супрацьстаяньня каталіцкаму духавенству. Верагодна, пад яго ўплывам з часам і грамадзкая эліта далучылася б да прапаганды лацінізацыі. Аднак такую магчымасьць своечасова прадухіліла царкоўная унія, заключаная ў Берасьці (1596 г.) стараньнямі праваслаўных герархаў ВКЛ.

Унія сталася важным фактарам захаваньня царкоўнай абраднасьці, што гарантавалася ня толькі Берасьцейскім пагадненьнем, але і пазьнейшымі папскімі буламі, якія забаранялі пераводзіць уніяцкіх вернікаў у лацінскі абрад без папярэдняга дазволу Апостальскай сталіцы. Такая забарона часта выклікала пратэсты русінскай шляхты і ўсяляк ёю абыходзілася, аднак рыма–каталіцкае духавенства не магло не лічыцца з папскімі загадамі. Яно магло праводзіць місіянэрскую дзейнасьць сярод іншаверцаў, да якіх залі-

[5] Цытаты паводле: Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. С. 384 і 412.

[6] Тамсама, с. 431.

[7] Cuius regio eius religio (лац.) — чыя ўлада, таго і рэлігія. — *А.П.*

чалі праваслаўных, але спробы перацягваньня ўніятаў у лацінскі абрад часта выклікалі скаргі ўніяцкіх герархаў, эпілёгам якіх бывалі судовыя расправы. Такім чынам, нягледзячы на розныя непасьлядоўнасьці, Уніяцкая царква была да падзелаў Рэчы Паспалітай важным бар'ерам, які стрымліваў масавую лацінізацыю сялянства і мяшчанства.

Значэньне ўніяцкага бар'ера выявілася ў XVII—XVIII ст., калі пасьля захапленьня рэфармацыйным рухам шляхту ўжо ня вабіла ні старое праваслаўе, ні Унія, якая трактавалася як мужыцкая, руская вера. Яе пацягнуў лацінскі каталіцызм як пануючае веравызнаньне ў Рэчы Паспалітай. У выніку нэафіцкай стараннасьці гэтай шляхты на ўсходніх і паўднёвых абшарах Беларусі, якія да канца XVI ст. былі амаль выключна полем дзейнасьці Праваслаўнай царквы, узьніклі дзясяткі каталіцкіх кляштараў, школаў, пашырылася сетка парафіяў, што, аднак, не змагло паўплываць на пашырэньне каталіцызму сярод сялянства і мяшчанства.

Такім чынам, да падзелаў Рэчы Паспалітай прагрэс лацінізацыі насельніцтва быў даволі сьціплы: на пачатку 80–х гадоў XVIII ст. агульная колькасьць каталікоў лацінскага абраду на Беларусі (у яе сучасных межах) складала 430—440 тысяч, г.зн. каля 15% ад колькасьці ўсіх жыхароў, прычым 84% каталіцкага насельніцтва канцэнтравалася ў паўночна–заходніх раёнах і толькі 16% — на астатніх абшарах Беларусі[8]. У той час каля 70% усіх жыхароў лічылася ўніятамі і 6% праваслаўнымі.

Пасьля далучэньня Беларусі да Расейскай імпэрыі (1772—1795) адбылася чарговая трансфармацыя канфэсійнай структуры яе жыхароў, у чым вырашальную ролю адыграў заняпад Уніяцкай царквы. З пункту гледжаньня фармаваньня нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў заняпад Уніі меў выключнае значэньне: па–першае, ён датычыў пераважнай часткі народу, па–другое, працягваўся некалькі дзесяцігодзьдзяў і, па–трэцяе, у ім удзельнічалі, акрамя саміх уніятаў, магутныя зьнешнія сілы — расейская імпэрская палітыка, Праваслаўная царква, Каталіцкі касьцёл і мясцовае памешчыцтва.

Гэтаму пытаньню прысьвяцілі сваю ўвагу шматлікія дасьледчыкі, зьявіліся сотні навуковых распрацовак, але не спыняецца дыскусія, надалей разглядаюцца разнастайныя аспэкты ўніяцкага пытаньня — гістарычныя, дагматычныя, палітычныя, культурныя і іншыя. Нас цікавіць пытаньне, у якой меры распад Уніі паўплываў на ўмацаваньне праваслаўя і каталіцызму на Беларусі і пасьлядоўна — на фармаваньне ідэйных пазыцыяў вернікаў гэтых канфэсіяў.

Расейская імпэратрыца Кацярына II не хавала, што адным з найбольш надзейных сродкаў русіфікацыі далучаных ад Рэчы Паспалітай беларускіх і ўкраінскіх абшараў будзе аправаслаўленьне іх жыхароў. Аднак заключаны ёю падзелавы трактат ад 1772 г. гарантаваў недатыкальнасьць Каталіцкай царквы абодвух абрадаў (лацінскага і ўніяцкага), што стрымлівала прымяненьне расейскай дзяржаўнай адміністрацыяй сілавых дзеяньняў у адносінах да ўніятаў. Гэта, аднак, не выключала магчымасьці добраахвотных навяртаньняў, якія дасягаліся шляхам прапаганды праваслаўя, асабліва пасьпяхова сярод сялянаў у маёнтках новых расейскіх землеўладальнікаў. Нястойкімі аказаліся і некаторыя ўніяцкія сьвятары, якія добраахвотна пераходзілі ў праваслаўе. Першы быў полацкі дэкан Пятровіч, а сьледам за ім пайшоў парах віцебскай царквы Сьвятой тройцы[9].

Усё ж першыя посьпехі праваслаўя на беларускіх землях былі не такія вялікія, як на тое спадзяваліся. Паводле П.М. Бацюшкава[10], на абшары першага падзелу (у Магілёўскай і Полацкай губэрнях) у 1780—1784 г. да праваслаўя далучылася 117 тыс. уніятаў і ў другой фазе, у 1794—1795 г. — яшчэ каля 110 тыс. Слабейшыя вынікі аказаліся ў Менс-

[8] Туронак Ю. Фармаваньне сеткі...

[9] Likowski E. Dzieje Kościoła Unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Warszawa, 1906. S. 182.

[10] Бацюшкаў Пампей Мікалаевіч (1811—1892) — расейскі гісторык, дзяржаўны і грамадзкі дзяяч. Быў адным з праваднікоў палітыкі русіфікацыі ў Беларусі, Украіне і Літве. — *А.П.*

кай губэрні, дзе на працягу 1794—1796 г. залічылі ў праваслаўе 80 тыс. уніятаў[11]. Такім чынам, да сьмерці Кацярыны II (6.11.1796) Уніяцкая царква на Беларусі страціла да 300 тыс. вернікаў.

Падзеі на Беларусі і ў яшчэ большай меры на Ўкраіне выклікалі занепакоенасьць у Ватыкане. Кардынал Кастэлі, прэфэкт кангрэгацыі Прапаганды веры, ужо ў 1773 г. ацэньваў пэрспэктыву Ўніяцкай царквы ў Расейскай імпэрыі як безнадзейную і лічыў, што ў такіх умовах можна дазволіць уніятам пераходзіць у лацінскі абрад[12]. І хоць не адбылося афіцыйнага скасаваньня папскіх загадаў па гэтым пытаньні і не спыняліся пратэсты ўніяцкай герархіі, магчымасьць "ратаваньня ўніяцкіх душаў ад схізмы" ўсё шырэй усьпрымалася рыма–каталіцкім духавенствам на Беларусі як першачарговая задача. Ідэю лацінізацыі ўніятаў падтрымалі і каталіцкія памешчыкі, якіх больш, чым збаўленьне душ прыгоннага сялянства, хвалявала пэрспэктыва ўжо ня толькі абрадавай, але і канфэсійнай ізаляцыі, якая ўва ўмовах расейскай дзяржаўнасьці набывала цалкам іншае значэньне, чым да гэтага часу.

Так пачалася барацьба за душы паміж Праваслаўнай і Каталіцкай цэрквамі, якую паціху інсьпіравалі і падтрымлівалі адпаведна расейскія ўлады і мясцовыя памешчыкі. Адначасова расьлі сілы і сродкі дзеяньня ня толькі Праваслаўнай царквы, але і Каталіцкага касьцёла. У 1772 г. была заснавана Магілёўская дыяцэзія, якая ў 1783 г. атрымала ранг архідыяцэзіі. Ёй падпарадкоўвалася Віленская і заснаваная ў 1798 г. Менская дыяцэзіі. За параўнальна кароткі час былі пабудаваны дзясяткі новых касьцёлаў, ня раз з дапамогай расейскіх уладаў, а сетка каталіцкіх парафіяў на Беларусі, якіх напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай налічвалася 240, да 1830 г. павялічылася да 325.

У часе ўладараньня Кацярыны II працэс далучэньня ўніятаў да праваслаўя меў даволі выразны кампанійны характар — ён адбыўся ў два этапы: у 1780—1784 і ў 1794—1796 г. і пасьля сьмерці імпэратрыцы, у часе ўладараньня Паўла (1796—1801) і Аляксандра I (1801—1825) раптоўна аслабеў і абмежаваўся да індывідуальных канвэрсіяў. У выніку на праваслаўна–ўніяцкім фронце запанавала шматгадовае перамір'е, аднак мала хто верыў у яго трываласьць.

Найбольш плённа працавала каталіцкае духавенства. Нягледзячы на ўрадавыя забароны, яно надалей працягвала пераводзіць уніятаў у лацінскі абрад, з чым паціху пагаджаліся базыляне і некаторыя ўніяцкія герархі, якія прадчувалі непазьбежнасьць новага наступленьня ўраду і Праваслаўнай царквы на Унію[13]. Акрамя новых здабыткаў, значная частка ўніятаў, далучаных да праваслаўя за час панаваньня Кацярыны, цяпер вярталася ў сваю веру або пераходзіла ў лацінства.

Наўрад ці можна нават прыблізна акрэсьліць статыстычныя вынікі гэтага працэсу. Як правіла, Каталіцкі касьцёл не хваліўся здабыткамі, а Ўніяцкая царква ня вельмі скардзілася на страты, у сувязі з чым дасьледчыкі ня выявілі дакумэнтальных зьвестак пра колькасьць беларускіх уніятаў, якія перайшлі ў лацінскі абрад, і абапіраліся на свае больш ці менш верагодныя меркаваньні[14].

Пра значнасьць працэсу навяртаньняў сьведчыць хуткі рост колькасьці вернікаў Каталіцкага касьцёла, які пачаўся неўзабаве пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай і працягваўся да 1842 г. Гэты рост значна перавышаў марудную тагачасную дынаміку

---

[11] Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. СПб., 1890. С. 322 и 324.

[12] Loret M. Kościół Katolicki a Katarzyna II 1772—1784. Kraków—Warszawa, 1910. S. 98—99.

[13] Бобровский П.О. Русская греко–униатская церковь в царствование императора Александра I. СПб., 1890. С. 163—164.

[14] Паводле Баброўскага, тамсама, у 1813—1828 г. колькасьць уніяцкага насельніцтва ў Расеі была на 200 тыс. меншая ад яго натуральнага прыросту; на думку аўтара, яны перайшлі ў лацінства. А. Грыцкевіч лічыць колькасьць перайшоўшых у лацінства на 543 тыс. Гл.: Belarus—Lithuania—Poland—Ukraine. The Foundations of Historical and Cultural Traditions in East Central Europe. Lublin—Rome, 1994. P. 251.

росту ўсяго насельніцтва, у выніку чаго працэнтная доля каталікоў пастаянна павялічвалася. Найбольшыя зьмены адбыліся на абшары Менскай губэрні, у якой за гэты пэрыяд каталіцкае насельніцтва ўзрасло ў 2,4 разы, да 277 тысяч, і складала амаль 30% ад усіх жыхароў губэрні[15]. Падобныя тэндэнцыі назіраліся ў некаторых паветах Віцебскай губэрні (Дрысенскім, Лепельскім), на Гарадзеншчыне і Віленшчыне.

Дасягнутая ў першай трэці XIX ст. пазыцыя Каталіцкага касьцёла на Беларусі была найзначнейшаю за ўсю яго гісторыю. Магчыма, яна захавалася б і надалей, а лацінізацыя перайшоўшых уніятаў сталася б трывалым фактарам, калі б не наступствы польскага паўстаньня 1831 г. Паўстаньне паўплывала на абвастрэньне расейскай палітыкі ў Паўночна–Заходнім краі. У прыватнасьці, была адменена існаваўшая адукацыйная сыстэма, скасавана большасьць каталіцкіх кляштараў, ліквідавана Ўніяцкая царква, якая на Полацкім саборы (1839 г.) была далучана да Праваслаўнай. Аднак Каталіцкі касьцёл захаваў свае адміністрацыйныя структуры — дыяцэзіі, дэканаты і ўсе парафіі.

Неўзабаве пачаўся ўхвалены Мікалаем I працэс вышукваньня ў каталіцкіх парафіях былых уніятаў і іх перацягваньня ў праваслаўе, што ажыцьцяўлялася праваслаўным духавенствам зь дзейснай дапамогай паліцыі. Гэты працэс, вядомы пад назвай “разбирательства”, працягваўся 15 гадоў — з 1842 па 1857 г., а яго вынікам былі тысячы канвэрсіяў, гэтым разам на карысьць праваслаўя.

Вынікі канфэсійнай неаднароднасьці насельніцтва Беларусі выявіліся падчас чарговага паўстаньня 1863 г. Нягледзячы на прапаганду “Мужыцкай праўды”, новаправаслаўнае сялянства не падтрымала паўстаньня, што і паўплывала на марны яго ход на Беларусі. Выглядала на тое, што канфэсійная трансфармацыя не ўспрымалася як асаблівы гвалт, зь якім трэба было змагацца. А гэта была важная акалічнасьць, якая дазволіла расейскім чыноўнікам трактаваць праваслаўнае сялянства як саюзьніка ў змаганьні з Каталіцкім касьцёлам, які лічыўся адным з галоўных інсьпіратараў паўстаньня, цьвярдыняй супрацьрасейскай і супрацьправаслаўнай апазыцыі. Усё ж гэты саюзьнік пакуль што мог быць толькі патэнцыйны, паколькі больш як двухвяковы канфэсійны мір не даваў уладам надзеі на раптоўную зьмену становішча.

Такую зьмену павінна была запэўніць плянавая антаганізацыя грамадзтва, для дасягненьня якой найбольш прыдатнай уяўлялася канфэсійная сфэра. Таму, акрамя вядомых рэпрэсіўных дзеяньняў, такіх як кантрыбуцыі, канфіскацыі маёнткаў, высылкі і інш., галоўны ўдар скіроўваўся супраць каталіцызму. На працягу пяці гадоў пасьля Студзеньскага паўстаньня[16] расейскія ўлады закрылі на Беларусі амаль 100 парафіяльных касьцёлаў і ня меншую колькасьць філіяльных храмаў, пераважная частка якіх была пертворана ў праваслаўныя цэрквы.

Гэтая акцыя, якой кіраваў віленскі генэрал–губэрнатар[17], была добра прадумана і праводзілася там, дзе павінна была выклікаць жаданую рэакцыю насельніцтва. Яна ажыцьцяўлялася галоўным чынам у канфэсійна зьмешаных раёнах Менскай, Віленскай і Гарадзенскай губэрняў. Наўрад ці трэба падрабязна апісваць пачуцьці, якія выклікалі гэтыя мерапрыемствы ў каталікоў. Яны паварочваліся ня толькі супраць расейскіх уладаў, але і супраць аднамоўнага праваслаўнага насельніцтва, якое карысталася забранымі касьцёламі.

Ува ўмовах, калі пачуцьцё крыўды зьмешвалася з злараднасьцю і цяжка было спадзявацца на мірнае сужыцьцё, праваслаўнае насельніцтва Беларусі магло арыентавацца толькі на Расею і на яе ўладу як на духоўнае і матэрыяльнае апірышча. Гэта робіць

[15] Biblioteka Jagiełeonska w Krakowie. Dział Rękopisów, 6039 II. Tablica wykazująca kościoły parafialne składające odtąd Diecezją Mińską.

[16] Маецца на ўвазе паўстаньне 1863—1864 г. — *А.П.*

[17] Віленскім генэрал–губэрнатарам у 1863—1865 г. быў сумнавядомы Міхаіл Мураўёў–“вешальнік” (1796—1866). — *А.П.*

зразумелай тую вонкава парадаксальную зьяву, што асноўны цяжар антыкаталіцкіх рэпрэсіяў клаўся на Беларусь, а не на Літву, у якой паўстаньне было больш пашырана. Там можна было закрыць сьвятыню, але мала было іншаверцаў, якія маглі б яе прысабечыць. Такім чынам, паўстаньне сталася толькі прэтэкстам для дзеяньняў, сапраўднай прычынай якіх было імкненьне да поўнага зьліцьця Беларусі з Расеяй.

Вядучая роля і надалей адводзілася Царкве. Зноў ажывілася спыненая ў 1857 г. кампанія вышукваньня ўніятаў, а калі іх ужо не ставала, прыйшла чарга на лаціньнікаў. Новая акцыя працягвалася з 1864 да 1868 г. і дала Праваслаўнай царкве яшчэ 80 тысяч душаў[18].

Аднак канвэрсіі не спыняліся да канца XIX ст., хаця ўжо не былі такімі гвалтоўнымі і пасьлядоўна ўплывалі на зьмену канфэсійнай структуры насельніцтва на Беларусі. Калі ў пэрыяд 1858—1897 г. праваслаўнае насельніцтва павялічылася ў 2 разы, то каталіцкае — толькі на 28%, а яго доля ў агульнай колькасьці насельніцтва зьменшылася з 23% да 15%, г.зн. вярнулася да ўзроўню, які існаваў напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай. Немагчыма ўстанавіць, ці гэтае вяртаньне было статыстычнай выпадковасьцю, ці адлюстроўвала пераход у праваслаўе ўсіх былых уніятаў.

Моцна аслабленая пасьля Студзеньскага паўстаньня пазыцыя Каталіцкага касьцёла для русіфікатараў усё яшчэ была небясьпечнай. Таму, акрамя сілавых дзеяньняў, прапагандавалася і тэарэтычнае абгрунтаваньне неабходнасьці русіфікацыі, згодна зь якім Беларусь уяўлялася часткай адзінай непадзельнай Русі, што магла быць толькі праваслаўнай, а каталіцкая частка народу як “іншароднае цела” павінна была растапіцца ў праваслаўным моры або зьнікнуць зь беларускай зямлі[19]. Пачаў ажыцьцяўляцца працэс “распалячаньня” каталіцызму, які прадугледжваў увядзеньне ў дадатковыя набажэнствы расейскай мовы замест ужыванай дагэтуль польскай. Паводле задумы ініцыятараў, канчатковай мэтай гэтага мерапрыемства павінна было быць “вяртаньне” беларускіх каталікоў ня толькі да расейскай народнасьці, але і да праваслаўя[20].

Можна пагадзіцца з ацэнкамі, што стаўленьне прыгоннага сялянства да канфэсійных трансфармацыяў на Беларусі адлюстроўвала пазыцыю іх пана–ўладальніка. Іншае становішча было пасьля скасаваньня прыгоннага права (1861 г.), калі, атрымаўшы юрыдычную свабоду, адзінка магла прыняць або адкінуць патрабаваньні ўладаў ці нацыскі духавенства. І хаця стойкасьць новаправаслаўнага грамадзтва выклікала розныя крытычныя заўвагі дасьледчыкаў, сфармаваная на канец XIX ст. канфэсійная структура насельніцтва Беларусі была несумненна перамогай Расеі і Праваслаўнай царквы.

Праўда, усё яшчэ ішло ідэйнае змаганьне, здараліся розныя хістаньні і адступніцтвы ад праваслаўя, але гэта былі параўнальна дробныя праблемы, якія не ўплывалі на трываласьць новай канфэсійнай структуры насельніцтва. Нельга пераацэньваць і тых падзеяў, якія адбыліся пасьля 1905 г. ува ўмовах канфэсійнай свабоды ў расейскай імпэрыі. Паводле афіцыйных зьвестак, у 1905—1909 г. у “Паўночна–заходнім краі” перайшло ў каталіцызм 56 тыс. праваслаўных[21]. Нягледзячы на эмацыйныя рэакцыі

---

[18] Киприянович Г.Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западнорусских униатов с православной церковью в 1839 г. Вильна, 1893. С. 372. — *Ю.Т.*

Аўтар абыходзіць увагай так званыя далучэньні 1870–х г. у Падляшшы і Холмшчыне. Іх апісаньне маецца, у прыватнасьці, ува ўспамінах Мікалая Янчука, зьмешчаных у кнізе “Unia brzeska: geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich. Praca zbiórowa” (Kraków, 1994). У асобных мясцінах, як у Пратуліне, даходзіла да расстрэлаў сялян, што трымаліся ўніяцкае веры. — *А.С.*

[19] Владимиров А. О положении православия в Северо–Западном крае // Русское обозрение. 1893. Март. С. 202.

[20] Тамсама. 1893. Апрель. С. 700.

[21] Wasilewski L. Litwa i Białoruś. Kraków, 1912. S. 86—87.

духавенства і публіцыстаў, рэальны эфэкт гэтай чарговай трансфармацыі быў нязначны, а колькасьць пакінуўшых праваслаўе складала менш чым 1% усяго насельніцтва Беларусі.

Больш істотны быў эфэкт міжканфэсійнага супрацьстаяньня, справакаванага расейскімі ўладамі пасьля Студзеньскага паўстаньня. Яно паўплывала на адчужанасьць праваслаўнага і каталіцкага насельніцтва, якое адпаведна да веравызнаньня падзялялася на “рускіх” і “польскіх”[22]. Супрацьстаяньне найслабей выявілася на Магілёўшчыне і Віцебшчыне, дзе нешматлікае каталіцкае насельніцтва паддавалася асыміляцыйным працэсам[23]. На іншых абшарах Беларусі каталікі здолелі абараніцца перад напорам праваслаўя і расейшчыны, што, аднак, гнала іх пад апеку пальшчызны.

Хрысьціянства ня сталася падставай для ідэйнай кансалідацыі беларускага народу, яго сынтэзуючым фактарам. Не была ім Унія, якая не аб’яднала двух абрадаў, тым больш не былі ім варагуючыя праваслаўе і каталіцызм. У такім становішчы ўзьнікалі і разьвіваліся паралельныя арыентацыі на Ўсход і на Захад, што стрымлівала працэс нацыянальнага адраджэньня.

Пачынаючы з другой паловы XIX ст., праваслаўную інтэлігенцыю задавальняла ідэалёгія заходнерусізму, якая не пагражала яе сацыяльным інтарэсам. Менш канфармісцкай была каталіцкая шляхта, прадстаўнікі якой паклалі пачатак беларускаму нацыянальнаму руху, апазыцыйнаму да праваслаўя і русіфікатарскай палітыкі ўраду. Такая ідэйная скіраванасьць руху абмяжоўвала яго ўспрыманьне праваслаўнай інтэлігенцыяй і закрывала яму шлях у народ. Адначасна гэта аблягчала русафільскім дзеячам весьці змаганьне зь беларускім рухам, які ацэньваўся як польская інтрыга, скіраваная супраць адзінства праваслаўнай Русі.

На пачатку XX ст. новая генэрацыя нацыянальных дзеячоў ужо не сумнявалася, што без успрыманьня адраджэнскай ідэі праваслаўнай большасьцю народу яе пашырэньне на Беларусі немагчымае. Вацлаў Іваноўскі так фармуляваў канцэпцыю ў прадмове да апрацаванага ім у 1904 г. першага буквара сучаснай беларускай мовы:

> Ци раз у нас сварка бывае: зыдуцца каталик з праваслаўным и сваруцца “ах ты, кажэ, паляк, — а ты маскаль”. И абодва ня ведама што кажуць: ани той паляк, ани гэты маскаль, абодва яны хоць рознае веры, а народу аднаго, бо абодва вырасли на зямельцы тутэйшай палескай — беларускай и першае слова ў мови нашай бацькаўскай ад бацькоў пачули, а сваруцца тольки сабе на крыўду и на сорам, людзям на сьмех. Вось і знарок выдаем лемэнтар дваякими знаками, выбирай, што спанараўна, каб усяки пазнаў, што ци такие, ци сякие знаки, а зыки, склады и словы тыеж, мова — таяж и людзи што мовай адной гаворуць — браты родные[24].

Ідэя стварэньня па–над канфэсійнымі падзеламі агульнабеларускай нацыянальнай самасьвядомасьці прыцягнула як каталікоў, так і праваслаўных. Яна ажыцьцяўлялася ў вострай ідэйнай барацьбе з прыхільнікамі заходнерусізму і палянізму — праціўнікамі самабытнасьці беларускага народу. І хаця за кароткі час гэтая ідэя не змагла значна пашырацца ў народных масах, яе посьпех быў несумненны, на што паказваюць спробы будаваньня беларускай дзяржавы падчас першай сусьветнай вайны.

Стаўленьне бальшавізму да рэлігіі — вядомае. Ён не цярпеў канкурэнцыі ў ідэаляг-

---

[22] Падзел на “рускіх” і “палякаў” існаваў і раней: “рускімі” былі ўніяты, “палякамі” — рыма–каталікі. Захаваньне гэтага падзелу пасьля 1839 г. паказвае, што былыя ўніяты ня ўбачылі асаблівага адрозненьня паміж ранейшай і новай верай, а сам перавод іх у праваслаўе не ўспрымаўся — пра што піша Ю. Туронак — “як асаблівы гвалт”. У новых умовах падзел на “рускіх” і “палякаў” набыў, апрача этнічна–канфэсійнага, і палітычнае адценьне. — *А.С.*

[23] Nasze kościoły. T. I. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa—Petersburg, 1913. S. 36—40, 90, 92, 120.

[24] Беларускі лемантар, або Першая навука чытаньня. СПб., 1906. С. 6.

ічнай сфэры, і ў выніку ў міжваенны пэрыяд ува Ўсходняй Беларусі былі разгромлены як Праваслаўная, так і Каталіцкая цэрквы, ажыцьцяўлялася шырокая атэізацыя грамадзтва. Не была яна цалкам беспасьпяховая, на што, магчыма, паўплывалі канфэсійныя трансфармацыі ў мінулым, сумным эфэктам якіх было пашырэньне ў народзе рэлігійнай абыякавасьці. Іншае становішча было ў Заходняй Беларусі, у якой праваслаўе страціла ранейшую пазыцыю пануючага веравызнаньня, а вяртаньне каталікам забраных пасьля Студзеньскага паўстаньня храмаў распальвала новыя антаганізмы. Іх драматычным эпілёгам было абвастрэньне канфліктаў падчас нямецкай акупацыі (1941—1944)[25], якая ў некаторых заходнебеларускіх раёнах нагадвала падзеі грамадзянскай вайны.

Спробы піянэраў Адраджэньня стварыць на дзьвюхканфэсійнай базе адзіную нацыянальную самасьвядомасьць аказаліся малапасьпяховымі. Гэтая ідэя ахапіла ў XX ст. тонкую праслойку інтэлігенцыі, але слаба ўспрымалася народнымі масамі. На іх стаўленьне няшмат паўплываў прагрэс атэізацыі ў савецкі час, які, праўда, прытупіў рэлігійныя перакананьні, але не аслабіў усьведамленьня этнакультурнай адметнасьці[26].

Гэтая адметнасьць, несумяшчальная з уяўленьнем пра Беларусь як частку адзінай Русі, як крыніцы пастаяннага супрацьстаяньня, а на паваротах гісторыі — і шкодных канфліктаў, абумовіла ў савецкі час дзеяньні, аб якіх маглі толькі марыць найбольш ваяўнічыя прадстаўнікі заходнерусізму. У 30–я гады пачалося масавае выгнаньне беларускіх каталікоў у Казахстан і Сібір, а ў 40–я і 50–я гады — іх перасяленьне ў Польшчу, у выніку чаго колькасьць каталіцкага насельніцтва на Беларусі зьменшылася прыкладна напалову і ў 1959 г. складала 600—700 тыс., г.зн. 6—7% усіх жыхароў рэспублікі[27]. Праўда, у 90–я гады, у выніку веравызнаўчай свабоды і дзейнасьці Каталіцкага касьцёла гэты паказчык узрос, аднак усё ж не перавысіў 10% усіх жыхароў[28].

Такім чынам, роля русінскай стыхіі, якая заўсёды была пераважным кампанэнтам этнаструктуры беларускага народу, значна ўзрасла за пасьляваеннае паўстагодзьдзе і сёньня застаецца вырашальнай у фармаваньні нацыянальнага лёсу. Генэтычна абумоўленую арыентацыю гэтай катэгорыі народу на ўсход пацьвярджае ня толькі шматвяковая гісторыя, але і падзеі апошніх гадоў — такія, як пасіўнае ўспрыманьне падараванай лёсам незалежнасьці, настальгія па Савецкім Саюзе, падтрымка ідэяў аб'яднаньня з Расеяй, адмаўленьне ад беларускай мовы, нацыянальнай сымболікі і г.д.

---

[25] Ува Ўсходняй Беларусі ў часе вайны таксама ішла барацьба паміж рознымі часткамі насельніцтва, але яна мела пераважна сацыяльна–палітычны характар: людзі помсьцілі тым, хто браў актыўны ўдзел у "раскулачваньнях" і канфіскацыях, пісалі даносы ў НКВД. — *А.С.*

[26] Пэрыяд атэізацыі меў прынамсі адно важнае наступства: там, дзе працяглы час не было царквы (касьцёла) і не адпраўляліся набажэнствы, новыя пакаленьні адвыклі ад мовы літургіі, што аслабіла іх прыток у царкву (касьцёл) пасьля заняпаду камунізму. Каб пераадолець гэтую нэгатыўную зьяву, прыцягнуць сярэдняе і маладое пакаленьні да рэлігійных практыкаў (споведзь, прычасьце, супольныя сьпевы і г.д.), Каталіцкая царква мусіла ў значнай меры беларусізавацца. У Праваслаўнай царкве характэрнаю зьяваю стала "обрядоверие", г.зн. пераважная частка тых, хто лічаць сябе праваслаўнымі хрысьціянамі, прыходзяць у храм толькі дзеля таго, каб учыніць пэўны абрад: хрост, вянчаньне, асьвячэньне сьвечак, вады, садавіны і г.д. — *А.С.*

[27] Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы. С. 388—393 гэтага выданьня. — *Рэд.*

[28] Павелічэньне долі каталікоў сярод насельніцтва краіны тлумачыцца, бадай, у першую чаргу пераходам значнай часткі парафіяў на зразумелую беларускую мову. Гэтае павелічэньне адбываецца праз прыток у Касьцёл людзей з праваслаўнага асяродзьдзя, якія нярэдка не зьяўляюцца этнічнымі палякамі ці беларусамі. За пэрыяд, што прайшоў ад часу напісаньня артыкула, доля каталікоў сярод насельніцтва Беларусі вырасла да 20 адсоткаў. Акрамя таго, аўтар ня піша пра тое, што немалую частку хрысьціянаў у Беларусі складаюць пратэстанты і нэапратэстанты. Пратэстанцкія цэрквы папаўняюцца амаль выключна былымі вернікамі з праваслаўнага асяродзьдзя. — *А.С.*

У 1994 г. прафэсар Аляксандар Рогалеў[29] пісаў, што Беларусь непазьбежна, аб'ектыўна "прарасла" адным сваім бокам у заходні сьвет, а другім — ува ўсходні, і дапускаў магчымасьць, што хутка ўсе палітычныя партыі Беларусі падзеляцца па прынцыпе "заходнікаў" і "ўсходнікаў", бо этнічны "інстынкт" — самы моцны з усіх іншых жаданьняў і інтарэсаў.

Аднак жа ў сьвятле апошніх падзеяў можна засумнявацца ў правільнасьці такога прагнозу. Сёньня на беларускай палітычнай і ідэйнай сцэне ніякія празаходнія партыі ці групоўкі, нават разам узятыя, ня маюць дастатковай сілы, здольнай супрацьстаяць арыентацыі "ўсходнікаў".

І калі раней, за савецкім часам, спасылкі на волю народу часта выклікалі падазрэньні, што яна была вынікам маніпуляцыі ўладаў, то ў 90–я гады такіх падазрэньняў ужо не было, і прарасейскі выбар пераважнай часткі беларускага народу не выклікаў сумненьняў. Таму можна спадзявацца, што ў чарзе на Захад Беларусь ня стане самастойна, а толькі за матушкай Расеяй.

*Друкуецца паводле:* Наша вера. 1998. № 2.

---

[29] Рогалеў Аляксандар (нар. 1956) — беларускі мовазнавец, прафэсар Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, аўтар працаў па беларускай тапаніміцы. — *А.П.*

Рогалеў А. Сапраўды, Беларусь — гэта не толькі Русь... // ЛіМ. 1994. 28 кастрычніка. — *Ю.Т.*

# З пачыну пралата Сьцяфана Данісевіча

На пачатку XX ст. беларускамоўныя каталіцкія кніжкі былі надзвычайнай рэдкасьцю. Першая зь іх, з апрабацыяй духоўных і сьвецкіх уладаў, была надрукавана ў 1835 г. у Вільні пад загалоўкам “Krótkie zebranie nauki chrześcijańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko–ruskim wyznania rzymsko–katolickiego”. Акрамя польскага загалоўка і некаторых малітваў на польскай мове, большая частка гэтай катэхізмоўкі была напісана па–беларуску.

Пасьля доўгага перапынку ў 1861 г. у Варшаве выйшла невялікая (8 стар.) брашура — “Песьні набожныя”, якая зьмяшчала вядомую беларускую песьню “О, мой Божа, веру Табе” і перакладзены на беларускую мову польскі патрыятычны гімн “Boże, coś Polskę”[1]. Урэшце, праз год (у 1862 г.) там быў надрукаваны “Элемэнтаж для добрых дзетак каталікоў”, які, нягледзячы на загаловак, быў новым выданьнем катэхізісу. Усе гэтыя кніжкі выдаваліся лацінкай.

Аб іх выдавецкай інсьпірацыі, прызначэньні і распаўсюджаньні ня раз выказваліся дасьледчыкі гісторыі кнігі. Зьяўленьне гэтых выданьняў заслугоўвае ўвагі і грунтоўнага вывучэньня, аднак для нашай тэмы больш важна высьветліць прычыны такой мізэрнай эдыцыі беларускамоўнай каталіцкай літаратуры: тры сьціплыя кніжачкі за ўсё XIX ст.!..

Дасьледчыкі звычайна спасылаюцца на тагачасны нізкі ўзровень пісьменнасьці, асабліва сялянства, і на забарону расейскіх уладаў друкаваць у другой палове XIX ст. беларускія кніжкі лацінскай графікай. Гэта былі важныя прычыны, але не выключныя, на што паказваюць зьдзяйсьненьні Мар’яна Абрамовіча, Аляксандра Ельскага, Францішка Багушэвіча і Вацлава Іваноўскага, якія абыходзілі гэтую забарону, друкуючы свае выданьні за межамі Расейскай імпэрыі. Яшчэ больш актыўна працавалі літоўскія выдаўцы, якія друкавалі рэлігійныя кніжкі ўва Ўсходняй Прусіі і распаўсюджвалі іх нелегальна.

Больш істотнай прычынай выдавецкай стагнацыі была, на нашу думку, нераспрацаванасьць беларускай мовы, тэрміналёгіі, адсутнасьць слоўнікаў і іншых дапаможнікаў для яе вывучэньня[2]. Дзіўна і сумна, што нашыя хвалёныя адраджэнцы XIX ст., якія

[1] “Boże, coś Polskę” (“Божа, чаму ты Польшчу”) — польскі нацыянальна–рэлігійны гімн, напісаны Алаізам Фялінскім у 1816 г. (пасьля тэкст трохі зьменены). Меў выразна скіраваныя супраць заборцаў незалежніцкія акцэнты, пра што, у прыватнасьці, сьведчаць наступныя радкі:

Boże! coś Polskę przez tak liczne wieki
Okrytą blaskiem potęgi i chwały,
Nagle spod swojej usunął opieki
I wzniósł te ludy, co jej służyć miały.

Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Ojczyznę wolną pobłogosław Panie.

З 1862 г. гімн быў забаронены ў Расейскай імпэрыі. У 1918 г. быў адным з кандыдатаў на ролю дзяржаўнага гімну адноўленай польскай дзяржавы, але перавага тады была аддадзеная т.зв. “Мазурцы Дамброўскага”, якая зьяўляецца гімнам Польшчы аж да сёньняшняга дня. Нягледзячы на гэта, “Boże, coś Polskę” па–ранейшаму часта выконваўся падчас розных урачыстасьцяў, асабліва рэлігійнага характару. — *А.П.*

[2] У 1870 г. быў надрукаваны “Словарь белорусского наречия” І. Насовіча, а ў 1881 г. — дапаўненьне да яго. — *А.С.*

закладалі падмурак сучаснай беларускай літаратуры, не парупіліся, прыкладам літоўцаў, апрацаваць і выдаць звычайны беларускі буквар. Напомнім, што першы "Беларускі лемантар" зьявіўся толькі ў 1906 г., а граматыка — аж у 1918 г.[3].

Вось таму, калі ў сьнежні 1904 г. царскім указам былі нарэшце скасаваны абмежаваньні друку, на беларускай выдавецкай ніве па–ранейшаму існавалі вялікія цяжкасьці, перш за ўсё праз адсутнасьць уніфікаваных граматычных і лексычных нормаў, правапісу і нават адзінага алфавіту. Не было і вопыту арганізаванай выдавецкай працы і, вядома, сродкаў. Усё ж, карыстаючы з свабоды друку, з 1905 г. пачалі паўставаць выдавецкія суполкі, галоўным чынам у Пецярбургу і Вільні.

## Біскуп Данісевіч

Ініцыятарам выданьня беларускай каталіцкай літаратуры быў пралат Сьцяфан Данісевіч. Ён нарадзіўся ў 1836 г. у Чарэйскай парафіі на Магілёўшчыне, скончыў Менскую духоўную сэмінарыю (1859 г.) і Духоўную акадэмію ў Пецярбургу (1863 г.). Пасьля атрыманьня сьвятарскага пасьвячэньня (1863 г.) доўгі час працаваў на парафіях у Воршы, Магілёве і Смаленску, быў дэканам магілёўскім і клімавіцка–мсьціслаўскім, а з 1895 г. — членам кансысторыі Магілёўскай архідыяцэзіі, сядзіба якой знаходзілася ў Пецярбургу. Пасьля сьмерці мітрапаліта Казлоўскага з 1903 да 1910 г. з кароткімі перапынкамі выконваў абавязкі адміністратара Магілёўскай архідыяцэзіі. У 1908 г. атрымаў годнасьць біскупа. Памёр у 1913 г. ува ўзросьце 77 гадоў.

Біскуп Данісевіч, беларус паводле паходжаньня, быў прыхільнікам выкарыстаньня беларускай мовы ў душпастырскай працы. Да гэтага падчас візытацыі парафіяў Магілёўшчыны ў 1910 г. заахвочваў духавенства ды і сам нярэдка прамаўляў па–беларуску. Пры гэтым ён разумеў, што ўсе заахвочваньні застануцца толькі прыгожым пажаданьнем, пакуль духавенства і вернікі не атрымаюць адпаведнай літаратуры — малітаўнікаў, дапаможнікаў па катэхізацыі і іншых.

## Ксёндз Ф. Будзька

Аднак на пачатку XX ст. такой літаратуры не было, а нешматлікія выданьні папярэдняга стагодзьдзя ўжо сталі рэдкасьцю і не адпавядалі патрабаваньням новага часу. Усё трэба было ствараць ад пачатку. Патрабаваліся маладыя кадры — энтузіясты справы, якіх таксама амаль не было. Праўда, у 1906 г., калі Данісевіч пачаў ажыцьцяўляць свае выдавецкія пляны, у Пецярбурскай сэмінарыі вучылася некалькі маладых беларусаў, але толькі адзін зь іх, Францішак Будзька, захапіўся ініцыятывай архіпастыра і стаў перакладаць на беларускую мову рэлігійную літаратуру.

Такім чынам, першыя гады пасьля абвяшчэньня свабоды друку на гэтай ніве працавалі толькі 70–гадовы, абцяжараны рознымі адміністрацыйнымі абавязкамі пралат Данісевіч і малады клерык, а з 1907 г. — ксёндз Францішак Будзька. Абодва працавалі без граматыкі, правапісу і слоўнікаў, самастойна стваралі беларускую касьцельную тэрміналёгію.

Аналіз апрацаваных імі тэкстаў паказвае на тое, што Данісевіч прысьпешваў Будзьку рыхтаваць матэрыялы да друку. Магчыма, ён прадчуваў хуткі канец свайго адміністраваньня архідыяцэзіяй і імкнуўся своечасова даць сваю неабходную апрабацыю на друк перакладаемых Будзькам кніг. Аднак, каб не марнаваць часу, у 1906 г. ён асабіста перапрацаваў і перавыдаў у Пецярбургу з сваёй апрабацыяй стары варшаўскі "Элемэнтаж для добрых дзетак каталікоў".

[3] Маюцца на ўвазе "Беларускі лемантар" Вацлава Іваноўскага і "Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча. — *А.П.*

Не марудзіў і кс. Будзька, які ў 1906 г. і ў першай палове 1907 г. перапрацаваў і пераклаў на беларускую мову тры кнігі: Філяхоўскага[4] “Кароткі катахізм для прыспасабленьня дзяцей да першай Споведзі і Камуніі Сьвятой”, І. Шустара “Кароткая гісторыя сьвятая” і Банчкоўскага “Кароткае выясьненьне абрадаў Р.–Каталіцкага касьцёла”, якія выдаваліся пад крыптанімам перакладчыка “Х”. Аб тэмпе працы кс. Будзькі сьведчаць даты апрабацыі ягоных перакладаў пралатам Данісевічам: кнігі Філяхоўскага і Шустара былі дазволены ім 24.01.1907, а Банчкоўскага — 12.06.1907.

Апрабацыя Данісевіча дазваляла духавенству карыстацца і распаўсюджваць перакладзеныя Будзькам кнігі, але не вырашала справу іх друку — пра гэта павінны былі клапаціцца выдаўцы. Першая ў 1907 г., г.зн. неўзабаве пасьля апрабацыі, была надрукавана вялікім тыражом (10 000 экз.) катэхізмоўка Філяхоўскага. Выдадзена яна, магчыма, на сродкі Данісевіча. Затое пераклады Шустара і Банчкоўскага ляжалі ў рукапісе аж да 1914 г., г.зн. 7—8 гадоў, і чакалі на ласкавасьць лёсу.

У 1908 г. кс. Будзька выехаў зь Пецярбургу ў Полацак, дзе да 1912 г. працаваў вікарыем, аднак не спыніў працы над чарговымі кнігамі. Тут ён пераклаў кніжку Яна з–над Буга (кс. Яна Урбана) “Бл. Андрэй Баболя”[5] і апрацаваў “Некалькі слоў аб пакуце”, якая атрымала апрабацыю новага магілёўскага архібіскупа В. Ключынскага[6]. Аднак і гэтым кнігам давялося доўга чакаць выданьня.

Нястача сродкаў стрымлівала выпуск падрыхтаваных да друку кніг. Пасьля выданьня ў 1907 г. катэхізму Філяхоўскага да 1912 г. улучна, г.зн. на працягу пяці гадоў, выйшла толькі адна перакладзеная Будзькам невялікая кніжачка пра Баболю (Вільня, 1911), якую, відаць, фінансаваў сам яе перакладчык. Таму неабходна было знайсьці іншыя магчымасьці.

Так узьнікла задума арганізаваць выпуск першага каталіцкага штотыднёвіка “Беларус”, вакол якога гуртавалася б патрыятычнае духавенства і сьвецкая інтэлігенцыя, што пасьлядоўна спрыяла б распаўсюджваньню ня толькі штотыднёвіка, але і кніжных выданьняў. На працягу 1912 г. Будзька закончыў неабходныя фармальнасьці, арганізаваў склад рэдакцыі і аказаў ёй напачатку пэўную грашовую дапамогу.

“Беларус” выходзіў у Вільні з студзеня 1913 г. да паловы 1915 г. Першым яго рэдактарам быў Антон Бычкоўскі, якога праз некалькі месяцаў зьмяніў а. Баляслаў Пачопка. Газэта выклікала значнае зацікаўленьне беларускага каталіцкага грамадзтва і мела многіх супрацоўнікаў, а ў іх ліку такіх прадстаўнікоў духавенства, як Аляксандар Астрамовіч, Ільдэфонс Бобіч, Генрык Бэта, А. Жукоўскі (з Іркуцку), Язэп Рэшаць, Адам Станкевіч, Канстанцін Стаповіч, Люцыян Хвецька. У 1913 г. “Беларус” атрымаў папскае дабраслаўленьне, што ўзвышала яго маральны аўтарытэт у вачох духавенства і сьвецкіх чытачоў.

Спадзяваньні Будзькі на прыбытковасьць “Беларуса” і на магчымасьць выпуску кніг апраўдаліся не адразу. Праўда, дзякуючы росту падпіскі і ахвяраваньням некаторых сьвятароў газэта выходзіла рэгулярна, аднак яе рэдактары ня раз непакоіліся пра тое, што наяўных грошай хопіць на выпуск усяго аднаго–двух чарговых нумароў. З прычыны нялёгкага фінансавага становішча рэдакцыя ў 1913 г. змагла выдаць толькі адну

[4] Філяхоўскі Рох (1838—1896) — польскі рэлігійны дзяяч XIX ст., у 1865—1874 г. прафэсар Плоцкай духоўнай сэмінарыі. З 1877 г. — канонік урацлаўскай капітулы і пралат мітрапалітальнай капітулы ў Варшаве. Аўтар многіх працаў на рэлігійную тэматыку. Ягоны “Кароткі катахізм для прыспасабленьня дзяцей да першай Споведзі і Камуніі Сьвятой” да пачатку XX ст. быў выдадзены 20 разоў агульным накладам каля 3 млн. паасобнікаў. — *А.П.*

[5] Да беларускага выданьня гэтай кніжкі дададзены верш на беларускай мове “Bł. Andrej Babola”, якога ў польскім арыгінале няма. Аўтарства верша невядомае, але, на думку вядомага беларускага дасьледчыка Язэпа Янушкевіча, ім зь вялікай доляй верагоднасьці мог бы быць Янка Купала (гл.: Янушкевіч Я. За архіўным парогам. Мінск, 2001. — *А.П.*

[6] Ключынскі Вінцэнт (1847—1917) — архібіскуп магілёўскі ў 1910—1914 г. — *А.П.*

кніжыцу — Казімера Сваяка (кс. Канстанціна Стаповіча) “Алькаголь” як першы нумар плянаванай бібліятэчкі “Беларуса”.

Відаць, кс. Будзька пачаў губляць надзею на магчымасьць выданьня сваіх перакладаў, якія ўжо некалькі гадоў ляжалі ў рукапісе. У прыватнасьці, ён імкнуўся даць сябрам паўсталага ў 1912 г. у Пецярбурскай духоўнай акадэміі Беларускага гуртка новыя выданьні, у сувязі з чым напрыканцы 1913 г. вырашыў выдаць на свой кошт пераклад кнігі Шустара “Кароткая гісторыя сьвятая”, якая выйшла ў студзені 1914 г. у Пецярбургу.

Выпуск штотыднёвіка “Беларус” і першых каталіцкіх кніг з радасьцю вітала княгіня Магдалена Радзівіл — прыхільніца беларусізацыі душпастырскай працы і разьвіцьця нацыянальнай каталіцкай культуры. Яна дапамагла Беларускаму гуртку ў Пецярбурскай акадэміі заснаваць сваю бібліятэку і, відаць, напрыканцы 1913 г. абавязалася пакрываць фінансавы дэфіцыт рэдакцыі “Беларуса”. Так зьявіўся доўгачаканы спонсар каталіцкага выдавецкага руху, што як наступства адкрывала перад ім большыя магчымасьці.

Калі за ўвесь 1913 г. рэдакцыя “Беларуса” здолела выпусьціць толькі адну кнігу, то ў 1914 г. выдала шэсьць і ў першай палове 1915 г. яшчэ дзьве (гл. зьмешчаны ніжэй сьпіс непэрыядычных выданьняў). Летам 1915 г. у сувязі з ваеннымі падзеямі выпуск “Беларуса” спыніўся, што адмоўна паўплывала на выданьне кніг.

За час свайго існаваньня рэдакцыя “Беларуса” выпусьціла агулам дзевяць кніг. Нарэшце дачакаліся выданьня перакладзеныя Будзькам “Кароткае выясьненьне абрадаў” Банчкоўскага і “Некалькі слоў аб пакуце”. Выйшлі літаратурныя творы А. Зязюлі (кс. А. Астрамовіча) “З роднага загону”, Г. Бэты (ананімна) “Бэтлейка”, Баляслава Пачопкі (пад крыптанімам Б.Л.) “Мятавыя лісточкі” і “Чалавек на вышыні сваёй годнасьці”, публіцыстычныя нарысы К. Сваяка (К. Стаповіча) “Алькаголь”, П. Простага (кс. І. Бобіча) “На што беларусам газэты?” і Аляксандра Ельскага “Жыцьцё сьв. п. папежа Піуса X” у перакладзе Б. Пачопкі.

## Айцец Баляслаў Пачопка. 30–я гады

Важным зьдзяйсьненьнем Пачопкі была апрацоўка і выданьне ў 1915 г. першага беларускага малітаўніка “Бог з намі”. Ён быў надрукаваны ў Вільні, але дазвол на яго выданьне і карыстаньне магілёўскі архібіскуп Ян Цепляк даў 7 студзеня 1915 г. пасьля праверкі цэнзарам архібіскупскай курыі кс. Фабіянам Абрантовічам. Малітаўнік быў выдадзены асобна, а ня ў рамках бібліятэчкі “Беларуса”.

Цікавым выданьнем, аб якім нядаўна пісала Ірына Багдановіч на старонках “Нашай Веры”, была “Kantyčka, abo Sabrańnie nabožnych piesień dla ŭžytku katalikoŭ biełarusaŭ”. “Kantyčka”, апрацаваная з удзелам Янкі Купалы, не дачакалася апрабацыі Віленскай біскупскай курыі і была выдадзена ў 1914 г. Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні без дазволу духоўных уладаў. Такім чынам, яна не магла афіцыйна выкарыстоўвацца ў касьцельных набажэнствах.

У верасьні 1915 г. Вільня апынулася ў зоне нямецкай акупацыі. Некаторыя дзеячы выдавецкага руху былі пакліканы ў расейскую армію, а іншыя эвакуаваліся ў Расею. У Вільні засталіся нямногія, і яны гуртаваліся вакол Вацлава Ластоўскага[7]. У выніку яго

[7] Аўтар перабольшвае ролю В. Ластоўскага ў віленскім жыцьці канца 1915—1918 г. Адзіным прадстаўніком беларускага насельніцтва немцы прызнавалі Камітэт дапамогі ахвярам вайны. І гэты Камітэт, і падпольны Беларускі народны камітэт узначальваў А. Луцкевіч. Старшынём Беларускага клюбу быў І. Луцкевіч. Канцэсія на выпуск газэты “Homan”/“Гоман” была выдадзена Беларускаму камітэту дапамогі ахвярам вайны. Гэты ж Камітэт выступіў і арганізатарам беларускага школьніцтва на акупаваных тэрыторыях. — *А.С.*

намаганьняў выдавецкая праца ўва ўмовах нямецкай акупацыі не заціхла: выходзіў штотыднёвік “Гоман”, падручнікі для ўпершыню адкрытых беларускіх школаў[8] і іншыя кніжкі. У 1916 г. выдавецтва “Гоман” выпусьціла кніжку Б. Пачопкі “Сьвяты Ёзафат Кунцэвіч”, а праз год была перавыдадзена кніга Шустара “Кароткая гісторыя сьвятая”.

У 1918 г. беларуская каталіцкая літаратура ў Вільні не выдавалася. На гэта значна паўплываў выезд Баляслава Пачопкі, найбольш актыўнага яе аўтара і выдаўца. У 1916 г. ён быў прызначаны выкладчыкам беларускай і лацінскай моў у адкрытай нямецкімі ўладамі Беларускай настаўніцкай сэмінарыі ў Сьвіслачы. На пачатку 20–х гадоў Пачопка прыняў усходні абрад, скончыў Львоўскую грэка–каталіцкую сэмінарыю і ў 1926 г. быў прызначаны мітрапалітам Шаптыцкім парахам Уніяцкай царквы ў Бабровічах на Палесьсі[9]. Сьвятар і надалей займаўся выдавецка–публіцыстычнай працай, прапагандаваў ідэю царкоўнай уніі. Памёр у Целяханах у сьнежні 1940 г.

Ваенныя падзеі не спрыялі разьвіцьцю выдавецкай працы ў Петраградзе, дзе працавалі галоўным чынам Люцыян Хвецька, Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі і некаторыя іншыя. Усе яны супрацоўнічалі з прызначаным для каталікоў штотыднёвікам “Сьветач”, які ў лістападзе і сьнежні 1916 г. выдаваўся ў Петраградзе. У 1917 г. Хвецька заснаваў там сваё выдавецтва, якое выпусьціла “Касьцельныя песьні”, апрацаваныя дырыжорам катэдральнага хору і настаўнікам сьпеваў у Духоўнай сэмінарыі і акадэміі Вінцэнтам Гажэльняскім. Акрамя яе, выйшла чарговая кніжачка А. Зязюлі (кс. Аляксандра Астрамовіча) “Слова праўды аб мове і долі беларуса”, была заснавана Хрысьціянска–дэмакратычная злучнасьць — першынец беларускай хадэцыі, пачала выходзіць “Крыніца”. Далейшае разьвіцьцё гэтай працы спыніла бальшавіцкая рэвалюцыя.

Так з пачыну біскупа Данісевіча на працягу 1906—1917 г. узьнікла беларуская каталіцкая літаратура. Пераважную яе частку складалі творы, прысьвечаныя рэлігійнай адукацыі і касьцельнай практыцы (катэхізм, абрады, малітаўнік, сьпеўнікі, гісторыя касьцёла, філязофія пакуты і іншыя). У астатніх выданьнях асьвятляліся пытаньні хрысьціянскай грамадзкай этыкі і нацыянальнай культуры.

Стваральнікамі гэтай літаратуры (аўтарамі, перакладчыкамі, выдаўцамі) былі ў асноўным прадстаўнікі першай генэрацыі беларускага каталіцкага духавенства — Данісевіч, Астрамовіч, Бобіч, Будзька, Бэта, Стаповіч і Хвецька. Баляслаў Пачопка быў на той час сьвецкай асобай, хоць два гады вучыўся ў Віленскай духоўнай сэмінарыі, а пазьней стаў грэка–каталіцкім сьвятаром. Вынікам іх працы было 20 кніг, зь якіх палову складалі арыгінальныя творы, а астатнюю частку — пераклады і перавыданьні.

Трэба заўважыць, што тыя выданьні, якія патрабавалі дазволу духоўных уладаў, правяраліся і ўхваляліся цэнзарамі і пастырамі Магілёўскай архідыяцэзіі Данісевічам, Ключынскім і Цеплякам. Затое ніводная кніга не атрымала апрабацыі Віленскай біскупскай курыі, дзе быццам не было людзей, якія разумелі беларускую мову. Пра гэта сьведчыў сумны вопыт “Kantyčki”, які адлюстроўваў непрыхільнае стаўленьне віленскіх цэнзараў да каталіцкай літаратуры на беларускай мове.

Сьціплыя былі тэхнічныя парамэтры выдавецкай прадукцыі. 14 кніг, або 2/3 агульнай іх колькасьці, налічвалі ня больш за 50 старонак, і толькі 6 зь іх мелі большы аб'ём. Да таго ж пераважная колькасьць кніг (17) выпускалася малым фарматам 16°, і толькі дзьве — фарматам 8°, які прыблізна адпавядае сучаснаму фармату А5. У залежнасьці ад прызначэньня кнігі выпускаліся рознымі накладамі, якія не заўсёды падаваліся на іх вокладках. Паводле дадзеных выдаўцоў, агульны тыраж 13 кніг склаў 38 060 асобнікаў, г.зн. у сярэднім 2930 асобнікаў. Калі гэты паказчык прыняць для ўсіх 20 кніг, іх агульны наклад можа скласьці 55—60 тыс. экзэмпляраў, а гэта ўжо было ня так мала.

Прыклад каталіцкіх духоўных і сьвецкіх дзяячоў, якія стварылі вартую ўвагі біблія-

[8] Гаворка пра легальныя беларускія школы. — *А.С.*

[9] Цяпер вёска Бабровічы знаходзіцца ў Івацэвіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці. — *А.П.*

тэчку беларускіх рэлігійных кніг, ня вабіў іх праваслаўных калег. Яны ня толькі пры расейскай уладзе, але і пад нямецкай акупацыяй доўгі час здавальняліся літаратурай на расейскай і царкоўнаславянскай мовах[10]. Пэўны зрух на праваслаўнай выдавецкай ніве адбыўся толькі ў 1918 г., калі ў Вільні выйшаў пераклад кнігі расейскага сьвятара Васіля Раманава "Першыя малітвы і пазнаньне хрысьціянскай праваслаўнай веры" (31 ст.). Парадаксальна, што выдаў яе каталік Вацлаў Ластоўскі, да таго ж лацінкай.

Калі такім спосабам В. Ластоўскі імкнуўся паўплываць на запачаткаваньне выпуску беларускамоўнай праваслаўнай літаратуры, то ў нейкай меры ён дасягнуў свае мэты. Лацінкавае выданьне кнігі Раманава не адпавядала праваслаўнай кірылічнай традыцыі і выклікала абурэньне духавенства. Неўзабаве яно было перавыдадзена ў Менску кірылічнай графікай. У тым жа 1918 г. у Вільні зьявілася другое праваслаўнае выданьне — пераклад кнігі Рыгора Чальцова "Аб'ясьненьне сымбаля веры, малітваў і запаведзяў", ухвалены протаярэем Міхаілам Галянкевічам. На жаль, далейшы выпуск беларускай праваслаўнай літаратуры спыніўся да паловы 20–х гадоў.

Ніжэй зьмяшчаем сьпіс каталіцкай літаратуры, выдадзенай у 1906—1917 г. у Пецярбургу і Вільні на беларускай мове. Усе выданьні падаюцца ў храналягічным парадку, па магчымасьці, з улікам поўнай бібліяграфічнай інфармацыі. Усе яны былі надрукаваны лацінкай і падаюцца ў кірылічнай трансьлітарацыі.

## Сьпіс непэрыядычных каталіцкіх выданьняў на беларускай мове (1906—1917 г.)

Элемэнтаж для добрых дзетак каталікоў. Пецярбург, 1906. — 24 с. 8°.

Філяхоўскі Р. кс. Катахізм для прыспасабленьня дзяцей да першай Споведзі і Камуніі Сьвятой. Пераклад і перапрацоўка Х (кс. Ф. Будзькі). Вільня, 1907. — 32 с. 16°. 10 000 экз., апрабацыя вікарыя Магілёўскай капітулы пралата С. Данісевіча.

Ян з–над Буга (кс. Ян Урбан). Бл. Андрэй Баболя мучанік. Пераклад Х (кс. Ф. Будзькі). Вільня, 1911. — 36 с. 16°. 3000 экз.

Сваяк Казімер (кс. Канстанцін Стаповіч). Алькаголь. Вільня, 1913. — 14 с. 16°. 3000 экз. Выданьне "Беларуса" № 1.

Зязюля А. (кс. Аляксандар Астрамовіч). З роднага загону. Вясна (вершы). Вільня, 1914. — 32 с. 16°. 3000 экз. Выданьне "Беларуса" № 2.

Некалькі слоў аб пакуце. Пераклад Х (кс. Ф. Будзькі). Вільня, 1914. — 15 с. 16°. 2060 экз. Выданьне "Беларуса" № 3, апрабацыя магілёўскага архібіскупа В. Ключынскага.

Б.Л. (Баляслаў Пачопка). Мятавыя лісточкі (апавяданьні). Вільня, 1914. — 31 с. 16°. 2000 экз. Выданьне "Беларуса" № 4.

Банчкоўскі Д. кс. Кароткае выясьненьне абрадаў Р.–Каталіцкаго касьцёла. Пераклад Х (кс. Ф. Будзькі), Вільня, 1914. — 64 с. 16°. 5000 экз. Выданьне "Беларуса" № 5, апрабацыя вікарыя Магілёўскай капітулы пралата С. Данісевіча.

Просты П. (кс. Ільдэфонс Бобіч). На што беларусам газэты? Вільня, 1914. — 15 с. 16°. Выданьне "Беларуса" № 6.

Ельскі А. Жыцьцё сьв. п. папежа Піуса Х. Пераклад Б. Пачопкі. Вільня, 1914. — 15 с. 16°. 1000 экз. Выданьне "Беларуса" № 7.

Шустар І. кс. Кароткая гісторыя сьвятая. Пераклад Х (кс. Ф. Будзькі). Пецярбург, 1914. — 79 с. 16°. 3000 экз. Апрабацыя вікарыя Магілёўскай капітулы пралата С. Данісевіча.

Kantyčka, abo Sabrańnie nabožnych piesień dla ŭžytku katalikoŭ biełarusaŭ. Вільня, 1914. — 62 с.

---

[10] На акупаваных немцамі заходніх землях Беларусі ў 1915 г. засталося 3—4 праваслаўныя сьвятары (А. Л[уцкевіч]. Прат. Міхал Галянкевіч // Сялянская Праўда. 1924. 14 лістапада). Паводле падлікаў гісторыка У. Ляхоўскага, іх было роўна дзесяць. — *А.С.*

16°. 2000 экз. Выданьне Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні.
(Бэта Г.). Бэтлейка. Сцэнічная штука ў пяці зьявах. Вільня, 1915. — 23 с. 16°. Выданьне "Беларуса" № 8.
Пачопка Б. Чалавек на вышыні сваёй годнасьці. Вільня, 1915. — 85 с. 16°. 1000 экз. Выданьне "Беларуса" № 9.
П–ка Б. (Пачопка Б.). Бог з намі. Беларускі мадлітэўнік. Вільня, 1915. — 264 с. 24°. 3000 экз. Апрабацыя магілёўскага архібіскупа Я. Цепляка.
Б.П. (Пачопка Б.). Сьвяты Ёзафат Кунцэвіч. Вільня, 1916. — 16 с. 16°. Выданьне газэты "Гоман".
Шустар І. кс. Кароткая гісторыя сьвятая. Пераклад Х (кс. Ф. Будзькі). Вільня, 1917. — 66 с. 8°. Перадрук зь першага выданьня 1914 г.
Гажэльняскі В. О, мой Божа, веру Табе. Касьцельная беларуская песьня. Петраград, 1917. — 4 с. 16°. Ноты.
Гажэльняскі В. Касьцельныя песьні. Петраград, 1917. — 30 с. 16°. Ноты. Выданьне "Л. Хведзька і суполка", апрабацыя магілёўскага архібіскупа Я. Цепляка.
Зязюля А. (кс. Аляксандар Астрамовіч). Слова праўды аб мове і долі беларуса (вершам). Петраград, 1917. — 15 с. 16°.

*Друкуецца паводле:* Наша вера. 2003. № 2(24).

# Падрэзаныя крылы

## Ксёндз Генрык Бэта

Заснаваны ў кастрычніку 1913 г. беларускі гурток студэнтаў рыма–каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу існаваў кароткі час — усяго пяць гадоў. Яго дзейнасьць спынілася пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў выніку ліквідацыі акадэміі бальшавіцкімі ўладамі. Асноўнай мэтай гуртка было фармаваньне нацыянальнай самасьвядомасьці яго сяброў, а таксама навучэнцаў Мітрапалітальнай духоўнай сэмінарыі ў Пецярбургу[1].

Абедзьве гэтыя навучальныя ўстановы рыхтавалі кадры сьвятароў да душпастырскай працы ў Беларусі, якія ў сваю чаргу павінны былі садзейнічаць ня толькі духоўнаму, але і нацыянальнаму выхаваньню каталіцкіх народных масаў. З гэтай прычыны акалічнасьці заснаваньня гуртка і яго дзейнасьць заслугоўваюць нашай увагі, тым больш, што дадзеным пытаньнем мала цікавіліся беларускія дасьледчыкі.

На пачатку XX ст. Пецярбург быў нароўні зь Вільняй важным цэнтрам беларускага адраджэнскага руху. Тут дзейнічалі такія вядомыя асобы Адраджэньня, як Браніслаў Эпімах–Шыпіла, Вацлаў Іваноўскі, Іван і Антон Луцкевічы, Янка Купала, Алёйзія Пашкевіч (Цётка), Браніслаў Тарашкевіч і іншыя. Тут працавалі беларускія выдавецтвы “Загляне сонца і ў наша аконца”, “Грамада”, выдавецтва Антона Грыневіча, а таксама Беларускі навукова–літаратурны гурток, заснаваны ў 1912 г. у Пецярбурскім унівэрсытэце. Тут распрацоўваліся канцэпцыі грамадзкай дзейнасьці.

Такім чынам, стварэньне акадэмічнага гуртка ішло ў адзіным рэчышчы агульнаграмадзкага разьвіцьця і павінна было дапаўняць яго ў рэлігійнай сфэры. Затое, як часта бывае, неаднародна трактуецца ў літаратуры “пэрсанальны аспэкт” — хто быў яго заснавальнікам. Бадай першы па гэтым пытаньні выказаўся кс. Вінцэнт Гадлеўскі, які восеньню 1912 г. паступіў на першы курс акадэміі.

> Задумаў я, — пісаў Гадлеўскі, — залажыць гурток і пачаў шукаць аднадумцаў. Падзяліўся сваімі думкамі зь Цікотам[2] і Хвецькам[3]. Тыя цэлай душой пахвалілі мой пачын. Зьвярнуўся я тады да іншых беларускіх “краёўцаў”, да Пякарскага[4], Шырокага[5], а таксама да Францука[6] і Жаўняровіча[7], і ў выніку 13 ці 20 кастрычніка 1913 г. мы залажылі першы гурток беларускай студэнцкай моладзі ў Петраградзкай акадэміі[8].

Вэрсію Гадлеўскага аспрэчыў кс. Адам Станкевіч, таксама былы студэнт акадэміі і дзяяч гуртка.

> Першым пачынальнікам беларускай арганізацыі сярод беларусаў–акадэмікаў, — пісаў Стан-

[1] Духоўная акадэмія і духоўная сэмінарыя ў Пецярбургу падначальваліся архібіскупу Магілёўскаму, які быў мітрапалітам Рыма–каталіцкае царквы ў Расейскай імпэрыі. — *А.С.*

[2] Цікота Андрэй (1891—1942) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[3] Хвецька Люцыян (1888—1944) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[4] Пякарскі Павал (1889—1954) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[5] Шырокі Станіслаў (1881—1956) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[6] Францук Янка (1891 — пасьля 1968) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[7] Жаўняровіч Ігнат (1890—1937) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[8] З жыцьця і дзейнасьці кс. В. Гадлеўскага. Аўтабіяграфічны нарыс // Biełaruskaja Krynica. 12 і 16.02.1928.

> кевіч, — быў Л. Хвецька. Дзякуючы яму ўжо ў 1912 г. паўстаў беларускі акадэміцкі гурток, у склад якога ўваходзілі Л. Хвецька, А. Цікота, П. Пякарскі, Ст. Шырокі, Францук, І. Жаўняровіч, В. Гадлеўскі. Існаваў, аднак, гэты гурток яшчэ толькі фактычна, а не фармальна. Урэшце ў кастрычніку 1913 г. быў ён фармальна заснаваны[9].

Такім чынам, узьнікае пытаньне, на якое не далі адназначнага адказу выказваньні абодвух кампэтэнтных дзеячоў акадэмічнага гуртка — ці яго заснавальнікам быў Гадлеўскі, ці Хвецька. Для дзейнасьці гуртка гэтае пытаньне, магчыма, было малаважнае, але можа быць цікавым перш за ўсё з увагі на тагачасную нацыянальную самасьвядомасьць беларускай акадэмічнай моладзі, якая толькі нараджалася і пашыралася.

Вось жа, Гадлеўскі, у пазьнейшыя гады выдатны беларускі рэлігійны і нацыянальны дзеяч, які за гэта цярпеў у польскай турме, відаць, моцна дбаў пра адпаведную прэзэнтацыю свайго жыцьцяпісу. У вышэй цытаванай аўтабіяграфіі ён напісаў, што ў Віленскую духоўную сэмінарыю, куды паступіў у 1908 г., "прынёс з сабою беларускую нацыянальную сьведамасьць і зараз на першым курсе запісаўся беларусам"[10].

Аднак гэта была няпраўда. Як сьведчаць нядаўна апублікаваныя архіўныя матэрыялы Віленскай сэмінарыі, да канца сваёй там вучобы Гадлеўскі лічыў сябе палякам[11]. Відаць, з гэтай прычыны не ўваходзіў у склад беларускага гуртка, які з 1910 г. дзейнічаў у сэмінарыі[12]. Зьмена яго нацыянальнага самаадчуваньня адбылася толькі ў Пецярбурскай акадэміі, у якой пад уплывам беларускіх дзеячоў, а таксама прыглядаючыся да працы згуртаваных у сваіх нацыянальных арганізацыях калегаў латышоў, літоўцаў, немцаў і палякаў, зразумеў усю недарэчнасьць пануючага ў Беларусі паняцьця "польская вера". Вядома, на тое патрэбны былі час, роздумы і дыскусіі, у сувязі з чым неверагодна, што пасьля паступленьня ў акадэмію ён быў ідэйна падрыхтаваны да ролі ініцыятара і заснавальніка гуртка.

Можна думаць, што няшмат іншай была нацыянальная сьвядомасьць і Люцыяна Хвецькі, калі ў 1907 г. ён прыбыў у Пецярбург і паступіў у духоўную сэмінарыю. Аднак ужо ў сэмінарыі яна зьмянілася на карысьць беларушчыны. Гэтаму спрыялі прыхільныя адносіны да беларускага адраджэньня біскупа Данісевіча, уплыў прафэсара сэмінарыі Эпімах–Шыпілы і старэйшых сяброў, сярод якіх найбольшую ролю адыграў Хвецькаў зямляк з Сакольшчыны Генрык Бэта, які ў 1908—1912 г. вучыўся ў акадэміі.

Бэта закончыў духоўную сэмінарыю ў Сейнах[13]. Яна ў той час была кузьняй кадраў літоўскага нацыянальнага духавенства. Тут ужо з 1904 г. выкладалася літоўская мова, распрацоўвалася літургічная тэрміналёгія, рыхтавалася рэлігійная літаратура на літоўскай мове. Аб паноўнай у сэмінарыі атмасфэры яскрава сьведчыць удзел яе навучэнцаў у кантрабандзе літоўскіх кніг, якія друкаваліся ўва Ўсходняй Прусіі, дастаўляліся праз расейскую мяжу ў Сейны і распаўсюджваліся сярод насельніцтва.

Захоплены ідэяй эмансыпацыі літоўскага каталіцызму з традыцыйных уплываў польшчызны, Бэта разумеў і цаніў значэньне роднай мовы ў душпастырскай працы і прапагандаваў гэтую ідэю сярод беларускіх сэмінарыстаў у Пецярбургу. Прытым ён не абмяжоўваўся канфэсійнымі патрэбамі — між іншым займаўся папулярызацыяй пчалярства сярод беларусаў і нават апрацаваў кнігу "Пчаліна — жывёлка малая, а карысьці дае многа", якую ў 1911 г. выдаў сваім коштам у Пецярбургу пад псэўданімам *Генрык Берозко*.

---

[9] Станкевіч А. Беларускі хрысьціянскі рух. Вільня, 1939. С. 65.

[10] З жыцьця і дзейнасьці кс. В. Гадлеўскага...

[11] Гарбінскі Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Мінск–Мюнхен, 1999. С. 487 і 592.

[12] Станкевіч А. ... С. 63.

[13] У сучасны пэрыяд Сейны — невялікі горад у Падляскім ваяводзтве Польшчы, павятовы цэнтар. Траціну яго 6–тысячнага насельніцтва складаюць літоўцы. — *А.П.*

Бэта, аднак, доўгі час не знаходзіў у акадэміі калегаў, гатовых падтрымаць ініцыятыву стварэньня беларускага гуртка. Толькі ў 1911—1912 г., на апошнім курсе яго вучобы, у акадэмію паступілі два пазьнейшыя дзяячы гуртка — Люцыян Хвецька і Павал Пякарскі. Яны і ажыцьцяўлялі задуму Бэты, які ў 1912 г. закончыў акадэмію і вярнуўся на Беласточчыну. Справа гуртка паступова разьвівалася: восеньню 1912 г. у акадэмію паступілі Станіслаў Шырокі, Ян Францук і Вінцэнт Гадлеўскі, а яшчэ праз год — Андрэй Цікота і Ігнат Жаўняровіч.

Такая іх колькасьць ужо была дастатковай для арганізацыі гуртка. Фармальнае яго заснаваньне адбылося ў кастрычніку 1913 г., хоць паводле цытаванай зьвесткі Адама Станкевіча практычная дзейнасьць гуртка пачалася ўжо ў 1912—1913 г.

З восені 1914 г. сябрамі гуртка сталі новыя студэнты акадэміі: Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Карл Лупіновіч[14] і Міхал Пятроўскі[15]. Аднак у сувязі з падзеямі першай сусьветнай вайны ў наступныя гады прыток новых студэнтаў значна прыпыніўся, у прыватнасьці, перасталі паступаць у акадэмію выпускнікі духоўнай сэмінарыі ў Вільні, якая зь верасьня 1915 г. была акупаваная немцамі. У выніку ў 1915 г. у гурток прыбылі толькі два новыя студэнты — Антон Матвейчык[16] і Антон Неманцэвіч[17], у 1916 г. — адзін Павал Хоміч[18] і ў 1917 г. — Язэп Пяткевіч[19].

У 1914 г. беларускі гурток налічваў 11 сяброў, што складала 16% ад усёй колькасьці студэнтаў акадэміі, якіх на той час было 70. Аднак зь вясны 1915 г. лік гурткоўцаў пачаў зьмяншацца. Адны студэнты закончылі поўны чатырохгадовы курс вучобы, а іншыя з розных прычынаў былі вымушаныя спыніць вучобу. Усе яны прызначаліся духоўнымі ўладамі на розныя душпастырскія пасады на абшары Магілёўскай архідыяцэзіі[20], пераважна ў Беларусі.

Ратацыю сяброў гуртка наглядна адлюстроўвае наступная табліца, апрацаваная на падставе зьвестак, пададзеных ксяндзом Адамам Станкевічам, і штогадовых афіцыйных даведнікаў Магілёўскай архідыяцэзіі.

Асноўныя кірункі дзейнасьці гуртка, паводзіны і абавязкі яго сяброў вызначаў статут, які зацьвярджаўся сэнатам акадэміі. Поўны зьмест статуту пакуль што ня знойдзены ў пецярбурскіх архівах, таму карыстаемся апублікаванымі кс. Станкевічам некаторымі яго патрабаваньнямі:

§ III. Разумнае і сыстэматычнае шырэньне беларускіх твораў.

§ IV. Ціхае яднаньне прыхільнікаў, не ўступаючы ў гарачыя дыспуты і ня дражнячы праціўнікаў, бо з праціўнікаў яны могуць стацца заклятымі непрыяцелямі.

§ V. Сьцерагчыся зразіць іх да мовы.

§ VI. Ня думаю заводзіць беларускай мовы ў касьцёле фармальна, пакуль ня зьменяцца цяперашнія варункі і пакуль народ ня станецца ўсьвядомленым.

§ VII. Буду старацца прыгатаваць народ да скарыстаньня з спадзяваных лепшых варункаў, каб ён сам зажадаў сваёй мовы ў касьцёле і школе.

§ VIII. Ня буду сеяць нянавісьці да іншых народаў, а так жа між беларусамі каталікамі і праваслаўнымі <...>.

---

[14] Лупіновіч Кароль Аляксандар (1891—1937(?)) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[15] Пятроўскі Міхал (1889—1931) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[16] Матвейчык Антон (1889—1941) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[17] Неманцэвіч Антон (1893—1943) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[18] Хоміч Павал (1893—1942) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[19] Пяткевіч Язэп (1892—1937) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[20] У тыя часы была прынятая практыка, што выпускнікі духоўных навучальных установаў прызначаліся на працу ў той архідыяцэзіі, на тэрыторыі якой тая ці іншая ўстанова знаходзілася. Пецярбурская духоўная акадэмія здавальняла патрэбы ў сьвятарскіх кадрах Магілёўскай архідыяцэзіі. — *А.П.*

**Сябры беларускага гуртка ў рыма–каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу**

| Імя і прозьвішча | Закончаная сэмінарыя | Год паступленьня ў акадэмію | Год заканчэньня вучобы | Гады вучобы | Год пасьвячэньня |
|---|---|---|---|---|---|
| Люцыян Хвецька | Пецярбург | 1911 | 1915 | 4 | 1914 |
| Павал Пякарскі | Вільня | 1911 | 1915 | 4 | 1913 |
| Вінцэнт Гадлеўскі | Вільня | 1912 | 1916 | 4 | 1914 |
| Станіслаў Шырокі | Вільня | 1912 | 1916 | 4 | 1905 |
| Ян Францук | Пецярбург | 1912 | 1916 | 4 | 1915 |
| Андрэй Цікота | Вільня | 1913 | 1917 | 4 | 1914 |
| Ігнат Жаўняровіч | Пецярбург | 1913 | 1916 | 3 | 1915 |
| Адам Станкевіч | Вільня | 1914 | 1918 | 4 | 1914 |
| Віктар Шутовіч | Вільня | 1914 | 1915 | 1 | 1913 |
| Карл Лупіновіч | Пецярбург | 1914 | 1917 | 3 | 1913 |
| Міхал Пятроўскі | Вільня | 1914[a] | 1917 | 4 | 1912 |
| Антон Неманцэвіч | Пецярбург | 1915 | 1918 | 3 | 1915 |
| Антон Матвейчык | Пецярбург | 1915 | 1918 | 3 | 1915 |
| Павел Хоміч | Пецярбург | 1916 | 1917 | 1 | 1916 |
| Язэп Пяткевіч | Пецярбург | 1917 | 1918 | 1 | 1917 |

[a] Пасьля некалькігадовага перапынку ў 1914 г. прыняты на другі курс.

*Крыніцы:* Stankievič A. Biełaruski chryścijanski ruch. Vilnia, 1939. S. 65; Directorium divini officii et missarum pro archidioecesi Mohyloviensi nec non pro dioecesi Minscesi, Petropoli, на адпаведныя гады.

§ XI. Буду памагаць сваёй працай і сваім дабром разьвіцьцю беларускай каталіцкай літаратуры і пісьменства.

§ XII. Буду рабіць усё ў духу хрысьціянскім і каталіцкім, вучачы братоў любіць сваё і паважаць чужое; буду працаваць зь верай, надзеяй і міласьцю ў сэрцы, буду ісьці з воклічам на вуснах: “З Богам для народу”[21].

Першым старшынём гуртка быў Павал Пякарскі, а сакратаром — Вінцэнт Гадлеўскі. Некаторыя зьмены ў кіраўніцтве адбыліся восеньню 1914 г., калі ў акадэмію паступіў Адам Станкевіч, вопытны арганізатар і дзяяч беларускага гуртка ў Віленскай духоўнай сэмінарыі. Тады ён быў выбраны сакратаром акадэмічнага гуртка[22], а ў 1916 г. пасьля выезду Пякарскага зь Пецярбургу — яго старшынём. Станкевіч кіраваў працай гуртка да 1918 г., у чым яму дапамагаў як сакратар Язэп Пяткевіч. Пазьней акадэмія была закрыта бальшавіцкімі ўладамі.

Асноўнай сфэрай дзейнасьці гуртка была самаадукацыя яго сяброў у галіне беларусазнаўства — гісторыі, мастацкай літаратуры і музыкі. Гэта павінна было спрыяць росту іх нацыянальнай культуры, самасьвядомасьці і паўплываць на выпрацоўку кірункаў грамадзкай працы.

З такой мэтай беларускія студэнты заахвочваліся карыстацца адпаведнай літаратурай у навуковых бібліятэках Пецярбургу. Значную дапамогу ў гэтай справе аказваў ім Браніслаў Эпімах–Шыпіла, які дазваляў карыстацца і ўласнымі кніжнымі калекцыямі. Урэшце, дзякуючы грашовай дапамозе княгіні Магдалены Радзівіл студэнты набывалі расейскамоўныя і іншыя кнігі аб Беларусі і такім чынам заснавалі ўласную бібліятэку.

Пра вынікі сваіх досьледаў студэнты акадэміі разважалі на пасяджэньнях гуртка. Між іншым, Гадлеўскі чытаў даклад пра нацыянальны характар беларусаў, Шутовіч — пра Францішка Багушэвіча, Неманцэвіч — пра царкоўную унію, Станкевіч — пра нацы-

[21] Станкевіч. А. ... С. 68.

[22] Шутовіч Я. Ксёндз Адам Станкевіч у 25–ыя ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.1.1915—10.1.1940). Вільня, 1940. С. 40.

янальную самабытнасьць беларусаў. Ня раз гэтыя мерапрыемствы ладзіліся сумесна зь сябрамі Беларускага навукова–літаратурнага гуртка, які з 1912 г. дзейнічаў у Пецярбурскім унівэрсытэце[23]. Ня раз удзельнічаў у іх і апякун беларускага студэнцтва ў паўночнай сталіцы Б.І. Эпімах–Шыпіла.

Сябры акадэмічнага гуртка займаліся таксама нацыянальным узгадаваньнем беларускіх юнакоў, якія вучыліся ў Мітрапалітальнай духоўнай сэмінарыі ў Пецярбургу. Асабістыя сувязі паміж імі дапаўняліся дакладамі старэйшых калегаў з акадэміі, прысьвечанымі актуальным рэлігійна–грамадзкім пытаньням. Таксама важную ролю адыгрываў створаны "акадэмікамі" беларускі хор, у якім маглі ўдзельнічаць і сэмінарысты. Немалая іх частка папоўніла ў 1920–я гады шэрагі нацыянальна сьвядомага беларускага каталіцкага духавенства, як, напрыклад, Язэп Барадзюля, Ян Вярсоцкі[24], Язэп Гайлевіч[25], Ян Жук[26], Казімер Кулак[27], Пётар Татарыновіч, Антон Шышка[28] і іншыя.

Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі, якая скасавала ранейшыя рэлігійныя і нацыянальныя абмежаваньні, актывізавалася дзейнасьць і беларускага каталіцкага духавенства. У 1917 г. Хвецька заснаваў у Пецярбургу (тады Петраградзе) Хрысьціянска–дэмакратычную злучнасьць (папярэдніцу Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі), стварыў сваё выдавецтва, якое выпускала газэту "Крыніца", удзельнічаў у арганізацыі першага зьезду беларускага каталіцкага духавенства ў Менску (май 1917 г.), гаварыў у петраградзкім касьцёле казані па–беларуску. Рэлігійную дзейнасьць на беларускай мове разгарнулі таксама маладыя сьвятары — нядаўнія ўдзельнікі акадэмічнага гуртка, накіраваныя ў парафіі на Беларусі.

Хутка, аднак, становішча зьмянілася, і новыя бальшавіцкія ўлады пачалі жорсткае змаганьне з рэлігіяй. У першую чаргу перасьледавалася і зьнішчалася духавенства ўсіх канфэсіяў. Такі лёс напаткаў і выпускнікоў Пецярбурскай акадэміі, якія працавалі на тэрыторыі СССР. Ужо ў 1920 г. быў арыштаваны Францук, Неманцэвіч арыштоўваўся двойчы — у 1919 і 1921 г., Хвецька — у 1923 г., Хоміч — у 1926 г., Жаўняровіч — каля 1929 г., Лупіновіч — у 1931 г., Пяткевіч — у 1933 г. Зь іх Францук, Неманцэвіч і Хвецька былі дэпартаваныя ў Польшчу, а астатнія загінулі ў ссылках і ў турэмных пастарунках[29].

Тыя сьвятары, якія апынуліся на заходнебеларускіх абшарах, далучаных у 1921 г. да Польшчы, не зьнішчаліся фізычна, аднак пад ціскам асымілятарскай палітыкі паступова звужаліся магчымасьці іх працы на беларускай рэлігійнай ніве. У такіх умовах Матвейчык, Пякарскі, Францук і Шырокі адыйшлі ад беларускага руху, а Хвецька і Неманцэвіч, пасьля вяртаньня з СССР у 1925 г., выкарыстоўваліся ўва ўнійнай працы сярод праваслаўных[30], якая стала прычынай канфліктаў у заходнебеларускім грамадзтве і не спрыяла яго нацыянальнай кансалідацыі.

Шутовіч з Барадзенічаў і Пятроўскі з Даўгінава былі "за беларускую агітацыю" пераведзеныя ў польскія парафіі, а Цікота — у Рым і пазьней — у Харбін. Сасланыя ў чужыя асяродзьдзі, яны ўжо не маглі працаваць для свайго народу.

---

[23] 30 сьнежня 1912 г. быў афіцыйна зацьверджаны статут гуртка, які быў упершыню пададзены на зацьвярджэньне яшчэ ў 1906 г. — *А.П.*

[24] Вярсоцкі Янка (1888—1937) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[25] Гайлевіч Язэп (1893—1971) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[26] Жук Янка (1897—1974) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[27] Кулак Казімер (1896—1989) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[28] Шышка Антон (1892—1959) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[29] Гл. біяграмы ў даведніку "Беларускія рэлігійныя дзяячы XX стагодзьдзя".

[30] Як Люцыян Хвецька, так і Антон Неманцэвіч выкладалі ў Місіянэрскім інстытуце ў Любліне (Хвецька быў нават рэктарам гэтай установы). Пасьля яго закрыцьця Неманцэвіч выконваў сьвятарскія абавязкі ў Альбярціне каля Слоніма і пры ўніяцкай парафіі ў Сынкавічах на Палесьсі. Акрамя таго, у 1932—1937 г. ён рэдагаваў і выдаваў беларускі ўніяцкі часопіс "Да Злучэньня". — *А.П.*

Толькі Гадлеўскі і Станкевіч не паддаліся нацыскам уладаў. Нягледзячы на розныя перашкоды, а ў іх ліку забарону ўдзельнічаць у працы Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі ці супрацоўнічаць зь "Biełaruskaj Krynicaj"[31], абодва гэтыя сьвятары настойліва ажыцьцяўлялі ідэалы акадэмічнага гуртка і зрабілі значны ўнёсак у гісторыю беларускага каталіцкага руху міжваеннай пары. Іх змаганьне і зьдзяйсьненьні вартыя паглыбленага вывучэньня.

*Друкуецца паводле:* Наша вера. 2003. № 24.

[31] Маецца на ўвазе выдадзены віленскім мітрапалітам Рамуальдам Ялбжыкоўскім 10 сьнежня 1928 г. пастырскі ліст, у якім усім каталікам забаранялася належаць да Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі і чытаць яе друкаваны орган — газэту "Biełaruskaja Krynica". Яшчэ перад гэтым, 12 красавіка 1927 г., Ялбжыкоўскі сваёй уладай забараніў пэрсанальна Адаму Станкевічу займацца палітычнай дзейнасьцю. — *А.П.*

# Люцыян Хвецька

Люцыян Хвецька нарадзіўся 22 лістапада 1889 г. у вёсцы Малышоўка Сакольскага павету Гарадзенскай губэрні ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў народнай школе ў Дуброве і гарадзкой вучэльні ў Саколцы. У 1907 г. паступіў у духоўную сэмінарыю ў Пецярбургу і пасьля яе заканчэньня працягваў тэалягічную адукацыю ў Пецярбурскай рыма–каталіцкай духоўнай акадэміі, якую скончыў у 1915 г. з ступеньню магістра тэалёгіі. 31 мая 1914. г. атрымаў сьвятарскае пасьвячэньне. Працаваў выкладчыкам літургікі і аканомам у духоўнай сэмінарыі, а пасьля яе закрыцьця бальшавіцкімі ўладамі з 1918 г. выконваў абавязкі вікарыя і адміністратара петраградзкай пракатэдры.

Люцыян Хвецька быў адным з пачынальнікаў беларускага каталіцкага руху: заснаваў беларускі гурток у Акадэміі[1], супрацоўнічаў зь віленскім каталіцкім штотыднёвікам “Беларус” (1913—1914 г.) і петраградзкім часопісам “Сьветач” (1916 г.), у якіх пад псэўданімам Л. Малышэвіч зьмяшчаў свае папулярныя артыкулы. Ува ўмовах пэўнай лібэралізацыі палітычнага жыцьця ў Расеі ў маі 1917 г. заснаваў сумесна з кс. Фабіянам Абрантовічам[2] Хрысьціянска–дэмакратычную злучнасьць, якая запачаткавала шматгадовую дзейнасьць беларускай хадэцыі, быў суарганізатарам зьезду беларускага каталіцкага духавенства ў Менску (24—25.05.1917), летам 1917 г. заснаваў у Петраградзе выдавецтва, якое пачало выпускаць беларускамоўную каталіцкую літаратуру і часопіс “Krynica”.

У сакавіку 1923 г. кс. Хвецька быў арыштаваны і ў маскоўскім працэсе архібіскупа Яна Цепляка і групы петраградзкіх сьвятароў асуджаны на 10 гадоў турэмнага зьняволеньня[3]. У выніку савецка–польскага пагадненьня аб абмене палітычных вязьняў быў датэрмінова вызвалены і ў лютым 1925 г. дэпартаваны ў Польшчу. У 1926—1931 г. працаваў рэктарам Місіянэрскага інстытуту ў Любліне[4], адкуль быў пераведзены ў Пінскую дыяцэзію. Пачаткова служыў пробашчам у Ставах[5], а з 1933 г. працаваў у дыяцэзіяльнай курыі і Пінскай духоўнай сэмінарыі, у якой выкладаў пастаральную тэалёгію, чытаў лекцыі па беларускай і расейскай мовах. Зь верасьня 1939 г. працаваў у Хотаве[6]. Тут падчас нямецкай акупацыі ён стаў аб'ектам нападаў і пабояў мясцовых рабаўнікоў, якія называлі сябе партызанамі. У лютым 1944 г. падчас аднаго з такіх нападаў ксёндз Люцыян уцёк з плябаніі ў бялізьне і босы, моцна прастыў, захварэў і 28 красавіка 1944 г. памёр у стаўпецкім шпіталі. Пахаваны пры хотаўскім касьцёле.

*Друкуецца паводле:* Наша вера. 2004. № 4.

---

[1] Больш пра заснаваньне і дзейнасьць беларускага акадэмічнага гуртка ў Пецярбургу гл. артыкул “Падрэзаныя крылы”. — *А.С.*

[2] Абрантовіч Фабіян (1884—1946) — каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху. — *А.П.*

[3] Судовы працэс праходзіў 21—25 сакавіка 1923 г. у Маскве. Падсудным (якія амаль усе былі каталіцкімі сьвятарамі зь Петраграду) было выстаўлена абвінавачваньне ў контрарэвалюцыйнай дзейнасьці ў інтарэсах сусьветнай буржуазіі, якая выяўлялася ў процідзеяньні дэкрэтам аб нацыяналізацыі царкоўнай маёмасьці, забароне вернікам уступаць у шэрагі камуністычнай партыі, арганізацыі камітэтаў для абароны касьцёлаў і касьцельнай маёмасьці ад нацыяналізацыі, навучаньні рэлігіі непаўналетніх, сабатажы і сувязі з замежнымі арганізацыямі. Галоўныя абвінавачаныя — архібіскуп Я. Цепляк і прэлат К. Будкевіч — былі прысуджаныя да сьмяротнага пакараньня, 4 сьвятары атрымалі па 10 гадоў турмы, астатнія — па 3. Гэты працэс фактычна сымбалізаваў пачатак у СССР адкрытай і бескампраміснай барацьбы з Каталіцкім касьцёлам. — *А.П.*

[4] Заснаваны Эдвардам Ропам пры судзеяньні люблінскага біскупа Мар'яна Фульмана ў 1922 г. Прызначаўся для навучаньня выпускнікоў польскіх каталіцкіх духоўных сэмінарыяў, якія жадалі атрымаць веды пра ўсходні абрад, каб пасьля працаваць сярод праваслаўных. Інстытут дзейнічаў да 1933 г. — *А.П.*

[5] Цяпер вёска Ставы ўваходзіць у склад Камянецкага раёну Берасьцейскай вобласьці. — *А.П.*

[6] Цяпер вёска Хотава ўваходзіць у склад Стаўпецкага раёну Менскай вобласьці. — *А.П.*

# *Вайна і акупацыя*

## Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944)

Створаны пасьля верасьнёўскай паразы эміграцыйны ўрад генэрала Ўладзіслава Сікорскага не прызнаваў тэрытарыяльных зьменаў на ўсходзе, якія адбыліся ўвосень 1939 г., і, адстойваючы палажэньні Рыскай дамовы, дабіваўся паўторнага ўлучэньня Заходняй Беларусі ў Польшчу. Супярэчнасьці, якія выявіліся ў гэтай справе падчас польска–савецкіх перамоў у ліпені 1941 г. у Лёндане, а таксама відавочная адсутнасьць зацікаўленасьці Вялікай Брытаніі ў аднаўленьні рыскай мяжы зрабілі немагчымым дасягненьне згоды ў тэрытарыяльным пытаньні ў заключанай 30.7.1941 двухбаковай дамове. Яна была замененая "гумовай" фармулёўкай, якая была прымальнай для абодвух бакоў і дазваляла адвольную інтэрпрэтацыю[1]. Ня выключана, што падчас заключэньня дамовы Сікорскі не пераацэньваў яе значэньня для спрэчных усходніх тэрыторыяў, бо зыходзіў з таго, што зь нямецка–савецкай вайны, якая ішла ў той час, абодва ваюючыя бакі выйдуць сур'ёзна аслабленымі, што ў выніку ўмагчыміць заходнім саюзьнікам арганізацыю паваеннага ладу ўва Ўсходняй Эўропе[2]. На такіх меркаваньнях кіраўнік эміграцыйнага ўраду будаваў таксама сваю канцэпцыю канфэдэрацыі Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, мяжа якой на ўсходзе павінна была супадаць з рыскай лініяй[3].

Гэтыя праекты, такім чынам, прадугледжвалі замацаваньне падзелу беларускіх земляў і асыміляцыю той часткі беларусаў, якая па вайне павінна была апынуцца ў межах польскай дзяржавы. Лягічным вынікам такой пазыцыі было моцнае нежаданьне эміграцыйнага ўраду цікавіцца беларускім пытаньнем таксама і ўва ўнутрыдзяржаўнай плашчыні. Таму нічога, апроч агульнага запэўненьня ў роўнасьці правоў і абавязкаў, ня ўнесла ў гэтую справу праграмная ўрадавая дэклярацыя, прадстаўленая 24.02.1942 на інаўгурацыйным паседжаньні Нацыянальнай рады[4]. Красамоўным выразам дэкляраванай роўнасьці была адсутнасьць беларусаў і ўкраінцаў у складзе Нацыянальнай рады Польскай рэспублікі як першага, так і другога скліканьня, што Ўладзіслаў Побуг–Маліноўскі ацэньваў як "дзяржаўна–палітычную памылку вялізарнай вагі"[5].

Згаданая пазыцыя ўраду, раўназначная ігнараваньню беларускага пытаньня, прынцыпова абавязвала яго аддзелы ў краіне: Дэлегатуру ўраду і Галоўнае камандаваньне ЗУБ–АК[6]. Яна ўплывала таксама на фармаваньне пазыцыяў падпольных палітычных згуртаваньняў і вайсковых груповак, асабліва ў зьвязку з запэўнень-

---

[1] Pobóg–Malinowski W. Najnowsza historia polityczna Polski. T. III. Londyn, 1960. S. 176—189.

[2] Kowalski W.T. Walka dyplomatyczna o miejsce Polski w Europie 1939—1945. Warszawa, 1979. S. 213, 261.

[3] Стоячы на пазыцыях рыскай мяжы, урад рашуча адкідаў спробы ўваскрашэньня фэдэрацыйнай праграмы Пілсудзкага, якія чыніліся апазыцыйнымі санацыйнымі коламі ў Ангельшчыне і Амэрыцы — параўн. Centralny Archiwum Komitetu Centralnego PZPR (далей: CA PZPR), 202/I–2, k. 9, depesza Mariana Seydy z 7.4.1942; Kowalski W.T. Ibidem. S. 253.

[4] Robotnik Polski w W. Brytanii. 1.2.1942. № 5.

[5] Pobóg–Malinowski W. Ibidem. S. 88, 194.

[6] ЗУБ–АК — Зьвяз узброенай барацьбы — Армія Краёвая. Пасьля акупацыі Польшчы немцамі паўстала канспірацыйная вайсковая арганізацыя Служба дзеля перамогі Польшчы (Służba Zwycięstwu Polski);

нямі Сікорскага ў гатоўнасьці саюзьнікаў падтрымаць яго ўсходнюю палітыку[7]. Некаторыя зь іх прымалі гэтую пазыцыю безь вялікіх асьцярогаў, іншыя ж здавалі сабе справу зь яе слабасьці і, не пераацэньваючы дыпляматычных высілкаў ураду, імкнуліся да пошуку альтэрнатыўных разьвязаньняў. Дыяпазон поглядаў нацыянальнага падпольля на беларускае пытаньне, такім чынам, быў вельмі шырокі і часта не супадаў з пазыцыяй ураду з гледзішча ня толькі тактыкі, але і мэтаў. Пры гэтым ён зазнаваў зьмены, галоўным чынам пад уплывам агульнай ваенна–палітычнай сытуацыі.

“Нацыянальная партыя” (Stronnictwo Narodowe) ужо на пачатку вайны выступіла з крытыкай замацаванага ў Рыскай дамове падзелу Беларусі (хоць гэты падзел у вялікай ступені быў творам нацыянальных дэмакратаў), які замест чаканага паскарэньня асыміляцыйных працэсаў прывёў да стварэньня Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і актывізацыі нацыянальна–вызвольных рухаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Аднак гэтыя падзеі, якія абумовілі рост нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў і фіяска палянізацыйнай крэсавай палітыкі, не зьмянілі базавай дактрыны НП, якая надалей адмаўлялася прызнаваць беларусаў як асобную нацыю. Супярэчнасьць гэтай пазыцыі рэчаіснасьці падштурхоўвала НП да распрацоўкі агрэсіўнай тэрытарыяльнай праграмы, якая ў пачатковай фазе нямецка–савецкай вайны прадугледжвала анэксію і асыміляцыю ўсёй Беларусі[8]. У існых варунках гэта выключала якія–колечы канцэпцыі аўтаноміі ці фэдэрацыі, якія партыйная прэса ацэньвала як перашкоду польскай экспансіі на ўсход. Адзінай прымальнай альтэрнатывай гэтай максымалісцкай праграмы было — на думку НП — вяртаньне да рыскай мяжы, што павінна было б адбыцца ў выніку перамогі Чырвонай Арміі над Нямеччынай. Гэты варыянт прадугледжваў узмацненьне палітыкі палянізацыі пры адначасным перасяленьні часткі беларускага насельніцтва за рыскую мяжу[9].

Падобныя погляды выказвала таксама Партыя працы[10]. Пра гэта сьведчыць як крытыка павэрсальскай канцэпцыі Польшчы, так і пастуляты пабудовы нацыянальнай дзяржавы зь вялікай тэрыторыяй, якая выходзіла б па–за этнічныя межы палякаў. Імкненьне да забесьпячэньня маналітнай з нацыяльнага гледзішча структуры насельніцтва будучай дзяржавы вымагала — на думку партыі — падтрымкі натуральнага прыросту і рээміграцыі, а таксама палянізацыі “зрусіфікаваных элемэнтаў” і славянскага насельніцтва з слабой нацыянальнай сьвядомасьцю. Гэтым патрабаваньням у першую чаргу адпавядала беларускае насельніцтва. Такім чынам, гэта была яўна асыміляцыйная праграма, рэалізацыю якой мела паскорыць пастуляванае агульнае культурнае і гаспадарчае разьвіцьцё славянскіх мяншыняў[11]. Ідэнтычным у праграме НП было таксама тое, што Партыя працы разглядала землі да Дзьвіны і Дняпра як польскі цывілізацыйны прасьцяг, на якім — як сьцьвярджалася — беларускі і ўкраінскі нацыі ўтварыліся толькі пасьля падзелаў канца XVIII веку. Адстойваная ПП канцэпцыя ўніянізму прадугледжвала вяртаньне гэтых нацыяў у польскую дзяржаўную і культурную супольнасьць[12]. Тым ча-

у студзені 1940 г. на яе базе паўстаў Зьвяз узброенай барацьбы (Związek Walki Zbrojnej), перайменаваны 14 лютага 1942 г. у Армію Краёвую. — *А.С.*

[7] Яшчэ ў канцы студзеня 1943 г. Сікорскі наступным чынам інфармаваў кіраўніцтва падпольля ў краіне пра вынікі свайго падарожжа ў Амэрыку: “Поўная згода што да мэтаў фэдэрацыі Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы і нашых задачаў. Салідарнасьць з намі што да нашай усходняй мяжы і гатовасьць падтрымаць нас”. Параўн.: CA PZPR, 202/I–3, k. 4, depesza Sikorskiego z 25.01.1943.

[8] Dwie tęsknoty // Walka. 7.10.1942. № 38.

[9] Memoriał SN z połowy 1943 r., CA PZPR, 202/III–132, k. 162.

[10] Партыя працы — *Stronnictwo Pracy* — польская правацэнтрысцкая партыя, утвораная ў кастрычніку 1937 г. Дзейнічала ў Польшчы да 1948 г. — *А.П.*

[11] Rozważania programowe Stronnictwa Pracy. Warszawa, 1943. S. 6—9.

[12] Тамсама, с. 22.

сам прынцыповую згоду з пазыцыяй эміграцыйнага ўраду выказвала Народная партыя “ROCH”[13], якая нязьменна прымала палажэньні Рыскай дамовы, дэкляруючы прынцып палітычнай, культурнай і гаспадарчай раўнапраўнасьці для беларускага насельніцтва ў межах польскай дзяржавы[14]. Аднак варта заўважыць, што некаторыя колы Народнай партыі скептычна ацэньвалі пэрспэктыву новых падзелаў і пастулявалі “поўнае аб’яднаньне ўсёй тэрыторыі Ўкраіны і Беларусі і злучэньне гэтых народаў на правах вольнасьці і роўнасьці з Польшчай”[15]. Аднак гэтыя погляды так і ня выйшлі па–за рамкі дыскусіі ў прэсе і не былі ўлічаныя ў афіцыйнай праграме партыі.

Адрозныя пазыцыі займалі дзьве групы сацыялістаў. Польская сацыялістычная партыя WRN[16] у гады вайны адмовілася ад старой фэдэрацыйнай праграмы і нават ад патрабаваньня аўтаноміі для нацыянальных меншасьцяў. Заміж гэтага яна прызнавала прынцып раўнапраўнасьці для ўсіх ляяльных грамадзянаў Польшчы і заклікала ўкраінцаў і беларусаў далучыцца да абароны рыскай мяжы[17].

Радыкальную пазыцыю ў пытаньні ўсходняй палітыкі пэўны час займала сацыялістычная лявіца (“Польскія сацыялісты”). Прадказваючы “ваенна–рэвалюцыйнае” заканчэньне вайны, гэтая групоўка разьлічвала на стварэньне Эўрапейскай сацыялістычнай фэдэрацыі на грунце прынцыпу самавызначэньня і роўнасьці ўсіх нацыяў. “У такой сытуацыі, — пісала “Barykada Wolności”, — мяжа 1939 г. страціць актуальнасьць. Усплывуць патрабаваньні незалежнасьці Беларусі і Ўкраіны, іх поўнай самастойнасьці альбо фэдэрацыі з Польшчай ці Расеяй”[18]. Аднак далейшае разьвіцьцё ваенна–палітычнай сытуацыі ў Эўропе прывяло да рэвізіі тэрытарыяльных канцэпцыяў “Польскіх сацыялістаў”, да якой у немалой ступені спрычыніліся таксама і зьмены ў кіраўніцтве гэтай арганізацыі. У кастрычніку 1942 г. яна адкідае лёзунг аўтаноміі для нацыянальных меншасьцяў у межах польскай дзяржаўнасьці пры маўклівым прыняцьці рыскай мяжы. Гэтая канцэпцыя становіцца дамінуючай асабліва пасьля II зьезду РППС[19], які адбыўся ў красавіку 1943 году[20].

Названыя партыі — Нацыянальная партыя, Партыя працы, Народная партыя і

---

[13] Народная партыя “ROCH” — “Stronnictwo Ludowe” — польская сялянская партыя, якая ўтварылася ў сакавіку 1931 г. пасьля аб’яднаньня 3 існых да гэтага сялянскіх партыяў: ПСЛ “Пяста”, ПСЛ “Вызваленьня” і Сялянскай партыі (Страньніцтва Хлопскага). Дадатак “ROCH” ужываўся падчас вайны. Лідэрам гэтай партыі падчас вайны быў Станіслаў Мікалайчык, з 1943 г. прэм’ер–міністар эміграцыйнага ўраду. — *А.П.*

Народная партыя “ROCH” — канспірацыйная арганізацыя сялянскага руху ў часе гітлераўскай акупацыі. Кіраўнічы орган — Цэнтральнае кіраўніцтва сялянскага руху (Centralne Kierownictwo Ruchu Ludowego), вайсковая арганізацыя — Сялянскія батальёны (Bataliony Chłopskie). — *А.С.*

[14] Polityczny ustrój państwa // Przebudowa. 1942. Czerwiec–lipiec. № 6(15). S. 17; а таксама Deklaracja ideowo–programowa Ruchu Ludowego. Warszawa, 1944. S. 10, 12.

[15] Droga ku wielkości // Polska Ludowa. 1943. Sierpień. № 5(39).

[16] WRN — *Wolność, Równość, Niepodległość* (Свабода, Роўнасьць, Незалежнасьць), — канспірацыйная сацыялістычная арганізацыя, створаная ў кастрычніку 1939 г. правымі дзячамі Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). Вайсковая арганізацыя — Народная гвардыя (Gwardia Ludowa WRN), якая ўваходзіла ў ЗУБ на аўтаномных правах. — *А.С.*

[17] Program Polski Ludowej. WRN. Warszawa, 1941 і 1943; а таксама CA PZPR, 202/III–84, k. 11—12, Stronnictwa polityczne w świetle wypowiedzi własnych.

[18] Czy powrót do granic z 1939 r.? // Barykada Wolności. 18.1.1942. № 80.

[19] РППС — Рабочая партыя польскіх сацыялістаў (Robotnicza Partia Polskich Socjalistów). Афармілася на базе Польскіх сацыялістаў (СП, Socjalistów Polskich) 11 красавіка 1943 г. Вайсковая арганізацыя — Народная польская армія (Polska Armia Ludowa). — *А.С.*

[20] Kwestia ukraińska // Robotnik. 8.10.1942. № 96; а таксама *Rezolucja II Zjazdu RPPS*. Тамсама. 19.4.1943. № 112. На гэтым зьезьдзе СП набыла назву Рабочай партыі польскіх сацыялістаў.

“Польскія сацыялісты” — складалі Палітычны пагадняльны камітэт[21], прызнаны эміграцыйным урадам за палітычнае прадстаўніцтва краіны. Нягледзячы на дарадчыя і экспэртныя кампэтэнцыі, ППК праз сваіх прадстаўнікоў рабіў істотны ўплыў на кірунак дзейнасьці Дэлегатуры. Упаўнаважанымі ўраду, якія адначасова выконвалі функцыю кіраўнікоў ППК, былі пераважна прадстаўнікі Партыі працы Цырыл Ратайскі і Ян Станіслаў Янкоўскі[22], голас якіх забясьпечваў правым партыям (Нацыянальнай партыі і Партыі працы) перавагу над пазыцыяй сялянскіх партыяў і сацыялістаў. Гэты расклад не дазваляў Дэлегатуры вылучаць больш–менш паважаныя ініцыятывы ў галіне ўсходняй палітыкі і весьці перамовы з прадстаўнікамі беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў.

Адрозную пазыцыю ў пытаньні ўсходняй палітыкі займалі вайсковыя колы, якія дзейнічалі ў арбіце ЗУБ–АК. Іх вядучыя дзеячы, якія выйшлі галоўным чынам зь легіянэрскіх і “peowiackich”[23] асяродкаў, палітычна былі зьвязаныя зь пілсудчыцка–санацыйным лягерам, зь якім змагаліся ўрад, Дэлегатура і партыі, што ўваходзілі ў склад ППК. Крытыкучы палажэньні Рыскай дамовы, якую пазьней паглыбіла нэгатыўнае стаўленьне да польска–савецкага пагадненьня ў ліпені 1941 г., гэтыя колы досыць рана вылучылі тэзу пра неабходнасьць перабудовы палітычна–дзяржаўнай структуры на ўсходзе на падставе мадыфікаванай ранейшай фэдэрацыйнай канцэпцыі. Яна прадугледжвала, сярод іншага, стварэньне пад эгідай Польшчы буфэрных дзяржаўных арганізмаў: беларускага і ўкраінскага.

Значную дзейнасьць у гэтым абсягу разгарнула створаная ў ліпені 1940 г. з ініцыятывы былога ваяводы Генрыка Юзэўскага[24] падпольная група “Polska Walczy”/“Польшча змагаецца”, якая выражала погляд, што Польшча зацікаўленая ў стварэньні беларускай дзяржавы (тэрыторыі) з сталіцай у Менску, якая ўваходзіла б у склад сярэднеэўрапейскай канфэдэрацыі альбо была б шчыльна злучаная з Польшчай іншым спосабам. Аднак заразом яна сьцьвярджала, што Польшча ня можа адступіць ад рыскай мяжы. У заходняй частцы падзеленай Беларусі гэтая групоўка дэкляравала ўвядзеньне шырокага самакіраваньня і поўнай раўнапраўнасьці насельніцтва ў палітычнай, культурнай і эканамічнай сфэры, раўнапраўнасьць беларускай мовы ў грамадзкім жыцьці, школьніцтве, а таксама беларусізацыю Праваслаўнай царквы і забесьпячэньне моўных правоў для беларусаў–каталікоў. Гэтыя захады, — асьцерагала “Польшча змагаецца”, — “не ўяўляюць найменшай пагрозы для польскай дзяржавы, калі яны будуць угрунтаваныя на важных унутраных патрэбах, а не інсьпіраваныя звонку”[25]. Гэтая праграма здабыла прыхільнасьць ня толькі многіх падпольных груповак пілсудчыцка–санацыйнай афарбоўкі (*Obóz Polski Walczącej*/Лягер змагарнай Польшчы і *Konwent Organizacji Niepodległościowych*/Канвэнт незалежніцкіх арганізацыяў), але таксама і часткі сацыялістаў (ППС–WRN) і

---

[21] У склад ППК уваходзілі: да сярэдзіны 1941 г. і ад вясны 1943 г. прадстаўнікі ППС–WRN, а ад верасьня 1941 г. да сакавіка 1943 г. прадстаўнікі “Польскіх сацыялістаў”.

[22] Апроч іх упаўнаважаным ураду быў праф. Ян Пекалкевіч (СП), які выконваў гэтую функцыю ўсяго колькі месяцаў (ад верасьня 1942 г. да 19.02.1943 г.).

[23] Маецца на ўвазе тое, што адзначаныя дзеячы падчас першай сусьветнай вайны і першыя гады пасьля яе змагаліся ў складзе легіёнаў Пілсудзкага ці ўваходзілі ў склад Польскай вайсковай арганізацыі (POW). — *А.П.*

Пэавяцкі (peowiacki) — слова, утворанае ад абрэвіятуры POW (Polska Organizacja Wojskowa, Польская вайсковая арганізацыя). Канспірацыйная ПАВ была створана з ініцыятвы Ю. Пілсудзкага ў 1914 г. У сьнежні 1918 г. увайшла ў склад Войска польскага. — *А.С.*

[24] Юзэўскі (Józewski) Генрык Ян (1892—1981) у 1930—1938 г. займаў пасаду валынскага ваяводы. Падчас выкананьня абавязкаў ваяводы выказваўся за больш гнуткую дзяржаўную палітыку ў дачыненьні да нацыянальных меншасьцяў, у першую чаргу да ўкраінцаў. — *А.П.*

[25] Kwestia białoruska // Ziemie Wschodnie Rzeczypospolitej. 1942. Czerwiec. № 3. S. 4—7; Nasze stanowisko w sprawie białoruskiej. Warszawa, 1943.

сялянскіх актывістаў (*Chłopska Organizacja Wolności “Racławice”* / Сялянская арганізацыя свабоды “Рацлавіцы”).

Яшчэ больш радыкальныя праекты разьвязаньня беларускага пытаньня прадстаўляла падпольная Дэмакратычная партыя, вядучыя дзяячы якой — Мечыслаў Міхаловіч і Рамуальд Мілер — даўно былі вядомыя сваімі фэдэралісцкімі перакананьнямі і дзейнасьцю[26]. Пэўна, на гэтых традыцыях трымалася канцэпцыя вяртаньня да “мадэрнізаванай ягелонскай думкі”, прапанаваная Міхаловічам яшчэ ў трыццатыя гады[27]. Прыхільнікамі гэтых поглядаў падчас вайны былі яго блізкія супрацоўнікі — намесьнік старшыні ДП Ежы Макавецкі і шматгадовы намесьнік дырэктара Інстытуту дасьледаваньня нацыянальнага пытаньня прафэсар Марцэлі Гандэльсман.

Патрабуючы грунтоўнай рэвізіі стаўленьня да беларусаў у імя ўзаемнага паразуменьня, даверу і супрацы Дэмакратычная партыя ўжо ў красавіку 1941 г. выступіла з крытыкай пазыцыі арганізацыі “Польшча змагаецца” ў справе непарушнасьці рыскай мяжы.

> Гэтая пазыцыя, — сьцьвярджаў орган партыі “Myśl Społeczna i Polityczna” (“Грамадзкая і палітычная думка”), — няслушная, якім бы патасам яе не падмацоўвалі. Трэба выразна сказаць сабе, што межы Польскай рэспублікі былі дрэнныя і ўсходнія, бадай, яшчэ горшыя за заходнія. Яны мелі мізэрную стратэгічную вартасьць, ня мелі геаграфічнага і эканамічнага сэнсу, падзялялі тэрыторыі, на якіх жыло аднапляменнае насельніцтва. Яны былі вынікам нядобрага кампрамісу, які — у вялікай меры ў выніку ўнутранага расколу і неразуменьня дзяржаўных задачаў усім грамадзтвам — мы ўклалі з Расеяй у Рызе ў 1921 г.[28].

Пазыцыя Дэмакратычнай партыі ў беларускім пытаньні ўлічвала два аспэкты яго разьвязаньня ў залежнасьці ад вынікаў нямецка–савецкай вайны. Першы зь іх прадугледжваў у выпадку аслабленьня ці краху абедзьвюх дзяржаваў магчымасьць узьнікненьня на ўсходзе самастойных беларускай і ўкраінскай дзяржаваў і наладжаньне дружбы і супрацоўніцтва зь імі на прынцыпах дзяржаўнай фэдэрацыі. У гэтым выпадку ДП выказвалася за адмову ад рыскай мяжы і за адпаведны тэрытарыяльны кампраміс з гэтымі дзяржавамі. У выпадку ж перамогі СССР над Нямеччынай партыя пастулявала захаваньне рыскай мяжы разам з разьвязаньнем беларускага і ўкраінскага пытаньня на аснове тэрытарыяльнай аўтаноміі[29]. Такім чынам, праграма ДП, як і канцэпцыі сацыялістычнай лявіцы, была найбольш радыкальнай сярод пазыцыяў падпольля.

Варта заўважыць, што Дэмакратычная партыя, нягледзячы на прызнаньне ёй эміграцыйнага ўраду, ня ўдзельнічала ў дзейнасьці ППК і Дэлегатуры. Аднак важным полем яе дзейнасьці было Галоўнае камандаваньне ЗУБ–АК, асабліва яго Бюро інфармацыі і прапаганды. Гэта было зьвязана з тым, што Макавецкі (псэўданімы “Томаш”, “Маліцкі” і інш.) займаў пасаду кіраўніка ўплывовага аддзелу інфармацыі БІП. Макавецкі далучыў да супрацы вядомых экспэртаў у пытаньнях нацыянальнасьцяў з Варшаўскага ўнівэрсытэту і Інстытуту дасьледаваньня нацыянальнага пытаньня, у тым ліку прафэсара Гандэльсмана (псэўданімы “Таргоўскі”, “Прафэсар”), дацэнта Людвіка Відэршаля (“Пісарчык”), дацэнта Уладзіслава Тамкевіча (“Сыбульт”, “Кшыштаф”) і іншых. Кіраўніком падпарадкаванага Макавецкаму сэктару ўсходніх нацыянальнасьцяў (Z 3) стаў Тамкевіч,

[26] На пачатку XX ст. Міхаловіч і Мілер былі чальцамі пецярбурскай арганізацыі ППС і ўдзельнічалі ў стварэньні і дзейнасьці Беларускай рэвалюцыйнай партыі. У канцы 1902 г. пры іх удзеле братамі Іваноўскімі быў выдадзены нелегальны орган БРП “Свабода”. Параўн.: А. Станкевіч. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, 1934. С. 74.

[27] Michałowicz Mieczysław. Człowiek–Działacz–Polityk // Część II. Warszawa, 1972. S. 86.

[28] Sprawa granic // Myśl Społeczna i Polityczna. Kwiecień 1941. № 3(7). S. 4.

[29] Тамсама. Гэтую пазыцыю ДП нязьменна прадстаўляла ў наступныя гады. Параўн.: Nasza polityka narodowościowa od 1939 r. // Nowe Drogi. 1944. Maj—czerwiec. № 5—6.

а ягонымі супрацоўнікамі ў беларускіх справах — Зоф'я Дабрынская ("Эва") і ўкраінскіх — Станіслаў Гербст ("Хробат"). Тут зьбіраліся і вывучаліся матэрыялы з паасобных нацыянальных участкаў і ў форме пэрыядычных рапартаў падаваліся кіраўніку АК, эміграцыйнаму ўраду і яго Дэлегатуры.

На думку Ізабэлы Карвацінскай, Макавецкі імкнуўся праз увядзеньне ў склад БІПу амаль выключна чальцоў ДП рабіць уплыў на кіраўніцтва Арміі Краёвай у кірунку, набліжаным да палітычнай лініі, прадстаўленай гэтай партыяй[30]. Яе канкрэтныя мэты (аўтаномія ці фэдэрацыя) павінна было вызначыць разьвіцьцё ваенна–палітычнай сытуацыі ў Эўропе, якое ў той час было цяжка прадбачыць. Гэтымі канцэпцыямі цікавіліся кіраўнік АК ген. Стэфан Равэцкі ("Грот") і кіраўнік штабу ген. Тадэвуш Пэлчынскі ("Гжэгаж"). Халодна ці непрыхільна да іх ставілася Дэлегатура ўраду, якая неаднаразова дасылала ў Лёндан скаргі на Галоўнае камандаваньне АК, абвінавачваючы яго ў "стварэньні дуалізму ўва ўрадавай працы і правакаваньні дэзарыентацыі"[31].

Стаўленьне да беларускай справы эміграцыйнага ўраду і афіцыйных прадстаўнікоў у краіне вынікала ня толькі з імкненьня да аднаўленьня даверасьнёўскай усходняй мяжы, але таксама і з усьведамленьня гістарычна абумоўленай слабасьці беларускага нацыянальнага руху, а асабліва яго становішча ў трыццатых гадох. У гэты час узмацніліся абмежаваньні да беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы і Латвіі, у выніку чаго дзейнасьць беларускіх палітычных арганізацыяў, грамадзка–культурных таварыстваў і школьніцтва там была моцна абмежаваная і не ўяўляла вялікага значэньня.

Адносна сьціплую актыўнасьць выяўлялі ў той час таксама і беларускія эміграцыйныя асяродкі ў Чэхаславаччыне і Нямеччыне. Істотныя зьмены ў гэтай сфэры адбыліся толькі пасьля верасьнёўскай паразы ў зьвязку з імкненьнем нямецкіх уладаў выкарыстаць гэтыя асяродкі ў плянаванай агрэсіі супраць СССР. У канцы 1939 г. у Бэрліне было створана Беларускае прадстаўніцтва, пасьля чаго быў арганізаваны шэраг беларускіх камітэтаў самапомачы (у Бэрліне, Празе, Вене, Мюнхэне, Варшаве, Лодзі, Познані і іншых гарадох) і пачаў выходзіць тыднёвік "Раніца". З набліжэньнем нямецка–савецкай вайны гэтыя арганізацыі ўдзельнічалі ў выведнай і прапагандысцкай дзейнасьці, стварэньні дывэрсійных групаў, а таксама ў падрыхтоўцы кадраў цывільнай адміністрацыі ў Беларусі. З гэтай мэтай яны займаліся рэкрутацыяй і спэцпадрыхтоўкай беларусаў — былых салдатаў Польскага войска, якія пасьля верасьнёўскай кампаніі апынуліся ў нямецкім палоне[32].

19 чэрвеня 1941, то бок амаль напярэдадні нямецкага нападу на СССР, у Бэрліне адбыўся сход вядучых прадстаўнікоў беларускіх асяродкаў, якія дзейнічалі ў Нямеччыне і генэральным губэрнатарстве[33], на якім была створана новая арганізацыя пад назвай

---

[30] Centralne Archiwum Historyczne Stronnictwa Demokratycznego w Warszawie, opracowanie Karwacińskiej. Działalność okupacyjna Stronnictwa Demokratycznego na terenie Warszawy (lata 1939—1944). Warszawa, 1962. S. 10 (maszynopis). Спрэчнае пытаньне, ці цалкам адпавядала рэчаіснасьці цьверджаньне аўтаркі аб тым, што амаль усе працаўнікі БІПу былі чальцамі ДП, бо там працавала таксама і шмат людзей, якія не ўваходзілі ў гэтую партыю, у тым ліку Тамкевіч і Дабрынская (беспартыйныя). Яны дзейнічалі згодна з загадамі Макавецкага, якія былі вытрыманыя ў духу ідэалёгіі ДП і ўвогуле адпавядалі іх уласным перакананьням.

[31] Depesza Delegata Rządu do Sikorskiego z 15.5.1942; Armia Krajowa w dokumentach. T. II. Londyn, 1973. S. 232. Гэтая сытуацыя не зьмянілася таксама і ў пазьнейшы час. Параўн.: Depesza Delegata do rządu z 8.2.1943, CZ PZPR, 202/I–7, k. 10.

[32] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 23; Raport specjalny — Sprawa białoruska, CA PZPR, 202/III–201, k. 105.

[33] Генэральнае губэрнатарства (генэральная губэрня) — адміністрацыйна–тэрытарыяльная адзінка, створаная на падставе дэкрэту Гітлера ад 12 кастрычніка 1939 г., якая ўлучала тэрыторыі міжваеннай Польшчы, што не ўвайшлі беспасярэдне ў склад нямецкага райху. Першапачаткова складалася з Кракаўскага, Люблінскага, Радамскага і Варшаўскага дыстрыктаў, у жніўні 1941 г. у склад генэральнага губэрнатарства ўвайшоў Галіцыйскі дыстрыкт. — *А.П.*

Беларускі нацыянальны цэнтар (далей Цэнтар). Яна павінна была палепшыць кіраваньне, плянаваньне і каардынацыю дзеяньняў напярэдадні акупацыі Беларусі. Старшынём Цэнтру стаў кіраўнік Беларускага камітэту ў Варшаве Мікалай Шчорс, а ў склад яго кіраўнічага органу ўвайшлі: Анатоль Шкутка, Мікалай Шкялёнак, Часлаў Ханяўка, Вітаўт Тумаш і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі[34]. Трохі пазьней у Цэнтар увайшоў Радаслаў Астроўскі. Ня ўдзельнічаў у ім лідэр Беларускай нацыянальна–сацыялістычнай партыі Фабіян Акінчыц, які разьлічваў адыгрываць у Беларусі самастойную ролю. З арыентацыяй на супрацу з трэцім райхам гэтыя дзячы зьвязвалі свае надзеі на арганізацыю беларускіх узброеных сілаў, а па спадзяванай перамозе над СССР — таксама і на стварэньне асобнай беларускай дзяржавы пад нямецкім пратэктаратам. Пры такой канцэпцыі справа дачыненьняў з Польшчай адсоўвалася на больш далёкі плян, а кантакт з польскім падпольлем быў непатрэбны.

Адрозную пазыцыю ў справе дачыненьняў з польскім эміграцыйным урадам і кіраўніцтвам падпольля займала іншая група беларускіх палітычных дзяячоў, галоўнымі прадстаўнікамі якой былі Вацлаў Іваноўскі, Ян Станкевіч і Станіслаў Грынкевіч[35]. Шанцы Нямеччыны на перамогу яны ацэньвалі скептычна, а акупацыю Беларусі — як часовую зьяву і, як і польскае падпольле, арыентаваліся на заходніх саюзьнікаў і іх вырашальную ролю ў арганізацыі паваеннага ладу ў Эўропе. У гэтых разьліках асабліва пажаданым быў польскі саюзьнік, зь якім зьвязвалася надзея на вынясеньне беларускага пытаньня на міжнародную арэну ў плашчыні ранейшай фэдэралісцкай канцэпцыі. Гэтыя дзеячы разьлічвалі, што можна будзе пераадолець цяжкасьці, якія вынікалі галоўным чынам з разьбежнасьці пазыцыяў у тэрытарыяльным пытаньні, а таксама на тое, што можна будзе дасягнуць згоды і наладзіць супрацу з польскім падпольлем.

Канцэпцыя Іваноўскага і яго таварышаў не адрозьнівалася ад пазыцыі дзяячоў Цэнтру ў адным істотным пытаньні, а менавіта ў ацэнцы выкарыстаньня нямецкай акупацыі для павышэньня патэнцыялу беларускага нацыяналізму, асабліва кантролю над адміністрацыяй і стварэньня ўласных узброеных сілаў. Супраца зь Нямеччынай, аднак, ставіла б пад пытаньне шанцы на польска–беларускі дыялёг і прэзэнтацыю беларускага пытаньня ў Лёндане. Падаецца, што пачатковае вызначэньне тактыкі дзеяньняў у гэтым складаным пытаньні адбылося ўжо ў першай палове 1940 г. у Вільні і прадугледжвала двайную гульню з наступным разьмеркаваньнем галоўных роляў: Іваноўскі меўся заняцца дзейнасьцю ў афіцыйнай сфэры, а Станкевіч — стварэньнем падпольнай групоўкі, не заплямленай калябарацыяй у вачох польскага падпольля.

У чэрвені 1940 г. Станкевіч прыбыў у Варшаву і за колькі месяцаў стварыў падпольную арганізацыю пад назвай Партыя беларускіх нацыяналістаў (ПБН), пераважна з чальцоў варшаўскага Беларускага камітэту, апазыцыйна настроеных да палітыкі Шчорса і Гадлеўскага. Ён таксама ўсталяваў кантакт з Дабрынскай, дзякуючы пасярэдніцтву якой летам 1941 г. паспрабаваў запачаткаваць перамовы зь БІПам — адзіным асяродкам польскага падпольля, інтарэсы якога давалі надзею на карысны абмен поглядамі. Аднак да перамоваў справа не дайшла[36]. Гэта было абумоўлена ня толькі недаверам да

[34] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан, 1960. С. 77—78.

[35] Вацлаў Іваноўскі (1880—1943), скончыў Тэхналягічны інстытут у Пецярбургу (1904), доктар тэхнічных навук (Мюнхэн, 1909), адзін зь вядучых дзяячоў беларускага незалежніцкага руху (1902—1920), прафэсар Варшаўскай палітэхнікі (1922—1939) і Віленскага ўнівэрсытэту (1939—1941). Ян Станкевіч (1891—1976), скончыў унівэрсытэт у Празе, доктар філязофіі (1926), выкладнік беларускай мовы ў Варшаўскім унівэрсытэце (1928—1932) і Віленскім унівэрсытэце (1927—1940), дэпутат сойму (1928—1930), палітычны дзяяч, пасьля вайны ў эміграцыі. Станіслаў Грынкевіч (1902—1945), скончыў Познанскі ўнівэрсытэт, доктар мэдыцыны (1930), вёў лекарскую практыку ў Познані, Хорашчы і Вільні (1930—1944), дзяяч хадэцкага Беларускага народнага аб’яднаньня.

[36] Паведамленьні Дабрынскай у 1979—1980 гады.

Станкевіча і сумневамі што да значнасьці рэпрэзэнтаванай ім ПБН, але таксама й імкненьнем Галоўнага камандаваньня да пашырэньня польскай сфэры ўплыву на заходнебеларускіх землях пасьля іх акупацыі нямецкімі войскамі, у зьвязку з чым размовы зь беларусамі маглі ўважаць за заўчасныя.

Гэтыя пляны ў першыя месяцы нямецкай акупацыі прынесьлі шэраг канкрэтных вынікаў. Летам 1941 г. на гэтых землях была створаная сетка выведных аддзелаў ГК ЗУБ і была пачатая арганізацыя падпольных вайсковых структур. Істотнае значэньне надавалася асабліва дасягненьню кантролю над тэрытарыяльнымі цывільнымі ўладамі, якія пры нямецкім ваенным камандаваньні ў вялікай ступені былі апанаваныя палякамі[37]. Гэта выклікала супрацьдзеяньне беларусаў, якія таксама імкнуліся да ўмацаваньня сваіх пазыцыяў у змаганьні за будучыню гэтых земляў. Увосень 1941 г. пасьля стварэньня Генэральнай акругі Беларусі і ўвядзеньня цывільнай адміністрацыі пачалося выдаленьне палякаў з займаных пасадаў і беларусізацыя адміністрацыі, паліцыі, школьніцтва і іншых абсягаў грамадзкага жыцьця. У гэтай атмасфэры множыліся канфлікты і ўзаемныя даносы, нярэдка з трагічнымі наступствамі.

Адмоўны ўплыў на польска–беларускія стасункі рабіла таксама напяцьцё, якое ўзьнікала на клясавым грунце ў зьвязку зь перадачай адміністрацыяй зямельных уладаньняў іх былым уласьнікам. Як сьцьвярджаў “Сыбулт” (Тамкевіч) у тэрытарыяльнай справаздачы ад 31 кастрычніка 1941 г.:

> На беларускія тэрыторыі часта вяртаюцца земляўласьнікі пад аховай нямецкай жандармэрыі. Гэта выклікае канфлікты зь сялянамі, у якіх адбіраюць улучаныя ў калгасы фальваркавыя землі і рознае забранае з двара рухомае майно. У ваколіцах Ліды на гэтым фоне былі закалоты, жандары застрэлілі больш за дзясятак сялян. Немцы ствараюць бачнасьць, што “вяртаюць Польшчу” і такім спосабам ствараюць антаганізм паміж беларусамі і палякамі[38].

У разуменьні кіраўнічых колаў падпольля, звыклых разглядаць беларускае пытаньне як штосьці вельмі туманнае, такая сытуацыя ў Заходняй Беларусі была новай зьявай, крыніцы якой яны бачылі як у бягучай нямецкай інсьпірацыі, так і ў ператварэньнях, зьдзейсьненых за няпоўныя два гады савецкай улады (1939—1941). Хіба раней за ўсіх гэта адчула чуйная да нацыянальных справаў эндэцкая[39] прэса, заўважаючы, што “бальшавіцкае патураньне беларускаму селяніну, перавыхаваньні многіх у інтэлігентаў пасьля колькімесячных курсаў, увядзеньне беларускай як афіцыйнай мовы — усё гэта паглыбіла і моцна ўскладніла нашу беларускую праблему”[40]. Значэньне гэтай праблемы, здавалася, паступова павялічвалася, аднак пакуль яна выклікала ў кіраўніцтве падпольля непрыязныя настроі і канфрантацыйныя пазыцыі, неспрыяльныя для паразуменьня. Не выпадкова паведамленьні, дасыланыя ў Лёндан у другой палове 1941 г., ня толькі ня ўтрымлівалі ніякіх пазытыўных прапановаў у гэтым пытаньні, але наадварот, адзначалі немэтазгоднасьць кантактаў зь беларусамі[41]. Падобна было і ў Менску, дзе канцэпцыя супольных дзеяньняў з Польшчай пахла “нацыянальнай здрадай”, а яе галоўныя абаронькі, Івтаноўскі і Станкевіч, былі аб’-

---

[37] Za Bugiem niemieckie nieporządki // Walka. 3.10.1941.

[38] Meldunki terenowe, CA PZPR, 202/II–22, k. 17. Падрабязныя паведамленьні ў гэтым пытаньні зьмясьцілі “Nowe Drogi” (5.1.1942. № 1(17)), а таксама “Barykada wolności” (31.8.1941. № 62).

[39] Эндэцкі — прыметнік, утвораны ад слоў *Narodowa Demokracja* (Нацыянальная дэмакратыя). У партыі “Нацыянальная дэмакратыя” гуртаваліся польскія шавіністы. У часе вайны называлася Нацыянальнай партыяй. — *А.С.*

[40] Za Bugiem niemieckie nieporządki // Walka. 3.10.1941.

[41] Pro memoria o sytuacji na ziemiach wschodnich, CA PZPR, 202/I–30, k. 125; Sprawozdanie polityczno–społeczne z końca 1941 r., тамсама, 202/III–132, k. 1.

ектам нападак і нават абвінавачаньняў, скіраваных іх палітычнымі праціўнікамі нямецкай службе бясьпекі[42].

Гэтыя дзеячы, аднак, пасьлядоўна рэалізоўвалі свае ранейшыя пляны. У сярэдзіне лістапада 1941 г. Іваноўскі стаў бурмістрам Менску, Станкевіч жа заняўся пашырэньнем структур падпольнай Партыі беларускіх нацыяналістаў і імкнуўся ўсталяваць кантакт з кіраўніцтвам польскага падпольля[43]. Важную ролю ў гэтым аспэкце адыграў Іваноўскі, які супрацоўнічаў з ПБН, выкарыстоўваючы свае сувязі сярод уплывовых дзячоў падпольля ў Варшаве[44]. У канцы лістапада 1941 г. яго наведаў у Менску ўпаўнаважаны афіцэр II аддзелу Галоўнага камандаваньня Самуэль Кастравіцкі, які па вяртаньні ў Варшаву стараўся стварыць адпаведны клімат для перамоў і пераканаць кіраўніцтва ў іх мэтазгоднасьці[45]. Ягоныя намаганьні ўвянчаліся памысным вынікам, пра што сьведчыць радыкальная зьмена пазыцыі ГК у пытаньні кантактаў з ПБН. Дзеля гэтага заміж дагэнулешніх ацэнак, у якіх абагульнена гаварылася пра зьяву калябарацыі беларусаў зь немцамі, з пачатку 1942 г. зьяўляюцца паведамленьні Равэцкага аб узросьце антынямецкай апазыцыі сярод беларусаў у Менску, якая шукае кантакту з палякамі, і нават пра беларускае паўстаньне, заплянаванае на апошнюю фазу вайны[46].

Пазыцыю Галоўнага камандаваньня АК выразна акрэсьліў спэцыяльны рапарт у бела-

---

[42] Касяк І. З гісторыі Праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью–Ёрк, 1956. С. 121; Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. С. 91—92.

[43] Справаздача “Эвы” (Дабрынскай) з падарожжа ў Менск у ліпені 1942 г. утрымлівае наступную характарыстыку гэтай групоўкі:

> Нелегальная ПБН, якая робіць стаўку на Ангельшчыну і Польшчу, цяпер налічвае каля 500 чалавек. На чале яе стаіць Цэнтральны камітэт з Станкевічам (прозьвішча расшыфраванае. — *Ю.Т.*) у якасьці старшыні. ЦК цяпер месьціцца ў Менску, складаецца з 8 заходнікаў і 2 усходнікаў (нацдэмаў). Партыя пабудаваная сыстэмай пяцёрак. У бальшыні раёнаў ёсьць партыйныя асяродкі. З прычыны камунікацыйных цяжкасьцяў партыя прымае толькі тых людзей з прыдатных да працы і ідэалягічна блізкіх, якія неабходныя партыі з прычыны іх пасады. Абавязкам кожнага чальца ёсьць стварэньне вакол сябе як мага шырэйшага магнэтычнага поля дзеля фармаваньня тыпу сапраўднага беларуса” (CA PZPR, 203/VII–45, k. 19). Партыю беларускіх нацыяналістаў згадвае таксама Касяк. Тамсама, с. 89.

[44] Пра кантакт Іваноўскага з Равэцкім піша В. Пануцэвіч. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі — дзяржаўны муж і правадыр народу // Беларуская Царква. Чыкага, 1965. № 28. С. 75. У найбліжэйшым атачэньні Макавецкага прыяцелямі Іваноўскага былі яго швагер Міхаловіч, Мілер, а таксама калега з V гімназіі ў Варшаве Гандэльсман.

[45] Самуэль Кастравіцкі (1902—1953) ведаў Іваноўскага з раньняй маладосьці, сярод іншага, у зьвязку з удзелам яго бацькі, Амброжага Кастравіцкага, у беларускім руху напярэдадні і падчас першай сусьветнай вайны. З восені 1939 г. Самуэль Кастравіцкі дзейнічаў у вайсковай арганізацыі “Pobudka” ў Варшаве. У канцы 1940 г. — без сумневу, па рэкамэндацыі Іваноўскага — зь ім навязаў кантакт Станкевіч, пасьля чаго вясной 1941 г. Кастравіцкі парваў з “Pobudkaj” і разам з сваім стрыечным братам Вітальдам Буткевічам уступіў у выведку ГК ЗУБ. Летам 1941 г. ён быў прызначаны кіраўніком прадстаўніцтва II аддзелу ГК у Менску, аднак паехаў туды толькі пры канцы лістапада, пасьля таго, як туды прыбыў Іваноўскі. Па размове з Іваноўскім Кастравіцкі самавольна вярнуўся ў Варшаву, даверыўшы Буткевічу арганізацыю прадстаўніцтва. Навіны, прывезеныя Кастравіцкім зь Менску, зацікавілі кіраўніцтва, бо заміж дысцыплінарнага спагнаньня за непадпарадкаваньне ён па рэкамэндацыі Пэлчынскага быў прызначаны кіраўніком аддзелу нацыянальнасьцяў (“996”) у контравыведцы ГК, а таксама атрымаў ступень капітана. На гэтай пасадзе ён заставаўся да паразы паўстаньня (паводле паведамленьняў Тамаша Зана — “Олеся”, былога кіраўніка выведкі ГК у паўночна–ўсходніх землях, верасень 1979 г., і Бэрнарда Закшэўскага — “Оскара”, “Гіпаліта”, былога кіраўніка контравыведкі ГК, студзень 1980 г., а таксама прыведзеных Закшэўскім успамінаў Буткевіча ад 29.5.1971). Гл. таксама зацем 75.

[46] Armia Krajowa w dokumentach. T. II. S. 193, 331.

рускім пытаньні, дасланы Сікорскаму ўвесну 1942 г. У ім адзначалася нарастаньне веры кіраўнічых колаў і беларускіх масаў у паразу гітлераўскай Нямеччыны, у зьвязку з чым у рапарце адзначалася:

> Некаторыя дзяячы, якія сталі ў апазыцыю палітыцы Шчорса, шукаюць кантактаў з польскімі групоўкамі, каб дамовіцца пра супольную абарону ад Расеі. Гэтыя людзі прагнуць вызваленьня ўсёй Беларусі пры дапамозе Польшчы і ўкладаньня з намі шчыльнай фэдэрацыі, аднак выстаўляюць максымальныя тэрытарыяльныя патрабаваньні і вызначаюць будучыя межы Беларусі ад Рослаўля да Белай Падляскай улучна. У зьвязку з магчымай паразай Нямеччыны праграма нацыяналістаў, якія дзеюць на месцах, зводзіцца да дасягненьня як мага больш поўнага адміністрацыйнага, эканамічнага і культурнага кантролю над краінай, каб паставіць таго, хто заваюе гэтую тэрыторыю, перад адбытымі фактамі[47].

У рапарце падкрэсьлівалася, што “растучыя праявы пошуку кантактаў з польскім бокам, пакінутыя намі без адказу, могуць быць перакрэсьленыя новымі саступкамі (у тэксьце памылкова: канцэпцыямі. — *Ю.Т.*) немцаў”, і прапанавалася здабыць сымпатыі беларускіх масаў шляхам:

— выданьня польскім урадам адозвы да беларусаў аб сужыцьці абедзьвюх нацыяў па вайне з асаблівым націскам на эканамічнае (аграрная рэформа) і культурнае пытаньне;

— запрашэньня прадстаўнікоў беларускага грамадзтва ў Нацыянальную раду;

— неадкладнага разгортваньня на месцах прапаганды, якая б нэўтралізавала антыпольскія аргумэнты;

— звароту польскага ўраду да Ватыкана з прапановай прызначыць біскупа беларускай нацыянальнасьці для этнічна беларускіх тэрыторыяў.

Асаблівай увагі заслугоўвае прыведзеная ў рапарце прапанова аб “неадкладным усталяваньні кантакту з тымі беларускімі дзяячамі, якія шукаюць падтрымкі ў Польшчы”, а таксама скіраваная да Сікорскага просьба аб дырэктывах у беларускім пытаньні, “цесна зьвязаным з прадугледжванай паўстаньнем і заняцьцем нашых усходніх земляў зь беларускім насельніцтвам”[48]. Гэта азначала, што Галоўнае камандаваньне прыняло прапановы Партыі беларускіх нацыяналістаў пачаць перамовы, захоўваючы дагэтулешнюю пазыцыю ў тэрытарыяльным пытаньні.

Гэты рапарт дайшоў да Лёндану адносна хутка, а яго вынікам было перададзенае 25.6.1942 тэлеграфнае даручэньне падаваць больш прэсавай і выведнай інфармацыі зь Беларусі, а таксама падрабязныя зьвесткі пра беларускіх дзяячоў. Эміграцыйны ўрад, аднак, устрымаўся ад ацэнкі рапарту, як і ад перадачы дырэктываў, аб якіх прасіла Галоўнае камандаваньне[49]. У гэтай сытуацыі кіраўніцтва АК прыняло самастойнае рашэньне аб рэалізацыі некаторых прапановаў з згаданага рапарту. Адной зь іх быў пачатак у сярэдзіне 1942 г. прапагандысцкай кампаніі сярод польскага і беларускага насельніцтва для стварэньня ўзаемазычлівага настрою, гатоўнасьці да аб’яднаньня і супольных абарончых дзеяньняў. Аднак гэтая кампанія, якой цікавіўся асабіста Равэцкі, не дасягнула жаданых вынікаў, а ўлёткі, выдадзеныя таксама й на беларускай мове, траплялі на неспрыяльную глебу[50]. Гэтая акалічнасьць, напэўна, паскорыла рашэньне аб пачатку перамоў з ПБН.

[47] Materiały Sekcji Wschodniej Delegatury, “Raport specjalny — Sprawa białoruska”. Дакумэнт бяз даты. Як вынікае з пададзеных у тэксьце фактаў, ён быў складзены ў сакавіку ці красавіку 1942 г. CA PZPR, 202/III–201, k. 105–106a.

[48] Тамсама.

[49] Depesze od rządu, CA PZPR, 202/I–2, k. 23.

[50] Polskie Siły Zbrojne w drugiej wojnie światowej. T. III. Londyn, 1950. S. 287.

Першая сустрэча інфармацыйнага характару адбылася ў канцы ліпеня 1942 г. у Менску, куды скіравалася прадстаўніца Галоўнага камандаваньня АК Дабрынская ("Эва"). Як вынікае з падрабязнай справаздачы з гэтых перамоў[51], пасьля яе прыбыцьця і навязаньня кантакту з Станкевічам ён склікаў паседжаньне Цэнтральнага камітэту Партыі беларускіх нацыяналістаў, які пацьвердзіў імкненьне да наладжаньня супрацы з Польшчай, акрэсьліваючы сваю пазыцыю і пажаданьні наступным чынам:

— немэтазгоднасьць збройнага змаганьня зь Нямеччынай і захаваньне бачнасьці ляяльнасьці да часу стварэньня беларускай арміі[52],

— стварэньне беларускай дзяржавы з заходняй мяжой уздоўж лініі Керзона[53];

— стварэньне па вайне польска–беларускай саюзнай дзяржавы (unii państwowej) з супольным міністэрствам замежных справаў;

— рэпрэзэнтацыя беларускага пытаньня польскім урадам перад урадам Вялікабрытаніі;

— спыненьне намаганьняў палякаў апанаваць адміністрацыю Заходняй Беларусі пры адначасным спыненьні беларусамі антыпольскага курсу.

Выказваючы сваё стаўленьне да часткі прыведзеных вымаганьняў, Дабрынская заявіла, што хоць польскія ўлады і хочуць супрацоўнічаць з ПБН, аднак з прынцыповых прычынаў ня могуць адмовіцца ад рыскай мяжы. Станкевіч, напэўна, быў гатовы да гэтай пазыцыі польскага боку, і таму прапанаваў разглядаць спрэчныя тэрытарыяльныя пытаньні як адкрытае пытаньне, што магло б палегчыць разьвіцьцё ўзаемадачыненьняў увогуле. Дамоўленасьць з Польшчай ЦК ПБН хацеў утрымаць у таямніцы ня толькі ад немцаў, але і ад большасьці ўласнай партыі, матывуючы гэта існаваньнем у беларускім грамадзтве настрояў падазронасьці і непрыязнасьці да Польшчы. Аднак канстатацыя гэтых цяжкасьцяў і разьбежнасьці поглядаў не перакрэсьлілі спадзяваньняў абодвух бакоў на дасягненьне згоды, што ў ліку іншага выявілася ў запрашэньні Станкевіча ў Варшаву для працягу перамоў[54].

Пачатак Галоўным камандаваньнем АК перамоў з Партыяй беларускіх нацыяналістаў Дэлегатура ўраду асудзіла. Як паказваюць прыпіскі, зробленыя на палёх справаздачы "Эвы", пазыцыю ПБН там ацэньвалі як крывадушную палітыку выкарыстаньня каньюнктуры, а прапанова супрацы, зробленая ў Менску прадстаўніцай ГК, была прызнаная незаконнай. Пры гэтым Дэлегатура ня выказала сваёй пазыцыі да патрабаваньняў беларускага боку, заўважыўшы, што дамоўленасьць будзе магчымая толькі тады, калі ПБН пачне супольна

---

[51] Справаздача "Эвы" з падарожжа ў Менск, CZ PZPR, 203/VII–45, k. 17–23. Гэтая справаздача была пакладзеная ў Дэлегатуру ўраду, дзе на палёх былі зробленыя камэнтары атрамантам і пастаўленая дата 18.8.1942. Гэта значыць, што справаздача была зробленая трохі раней, мабыць, у пачатку жніўня.

[52] Гэтыя разьлікі не былі цалкам беспадстаўнымі. У канцы чэрвеня 1942 г. генэральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ даў згоду на стварэньне добраахвотнага г.зв. Вольнага корпусу беларускай самааховы, 3 верасьня ў Менску адкрыліся курсы падрыхтоўкі афіцэраў. Аднак у канцы 1942 г. створаны корпус быў пэратвораны немцамі ў разрозьненыя паліцыйныя фармаваньні Беларускай самааховы, падпарадкаваныя акруговым камандзірам нямецкай паліцыі і выкарыстоўваныя галоўным чынам для барацьбы з савецкай партызанкай. Прычына роспуску корпусу цалкам ня высьветленая. Сціплыя афіцэрскія рэсурсы і недастатковы наплыў добраахвотнікаў былі бадай найважнейшай прычынай гэтага. Праўдападобна, праект Кубэ быў адкінуты ўладамі ў Бэрліне, якія з палітычных меркаваньняў супраціўляліся стварэньню буйных ненямецкіх вайсковых фармаваньняў на акупаваных усходніх землях. — *Ю.Т.*

Гл. зацем 1 у камэнтарох да арт. "Генэза і дзейнасьць Беларускай цэнтральнай рады (сьнежань 1943 — чэрвень 1944)". — *А.С.*

[53] "Лініяй Керзона" называлася лінія, якая была прапанаваная міністрам замежных справаў Вялікай Брытаніі Джорджам Натаніэлем Керзонам (1859—1925) і вызначаная ў сьнежні 1919 г. Вярхоўнай радай Антанты ў якасьці ўсходняй мяжы Польшчы (прыблізна Горадня—Берасьце — на ўсход ад Перамышля і да Карпат). Амаль адпавядае сучаснай беларуска–польскай мяжы зь невялікімі адхіленьнямі на карысьць Польшчы. — *А.П.*

[54] Справаздача "Эвы" з падарожжа ў Менск, CZ PZPR, 203/VII–45, k. 21.

змагацца супраць Нямеччыны. Гэтае ў прынцыпе слушнае пажаданьне, аднак, не было згаданае ў найбліжэйшай справаздачы Дэлегатуры да ўраду, затое яе аўтары не скупіліся на нападкі на ПБН, адзначаючы, што яе прасаюзьніцкая арыентацыя — “толькі тэорыя”, што гэтая партыя насамрэч антыпольская, што яе людзі супрацоўнічаюць зь немцамі і што яе дзейнасьць “у дадзены момант абмяжоўваецца вынішчэньнем польскасьці рукамі акупанта”[55]. Такім чынам, Дэлегатура была рашучым праціўнікам стасункаў зь беларускім падпольлем і, напэўна, гэтак намагалася паўплываць на пазыцыю Сікорскага, які абяцаў у найбліжэйшым часе даслаць дырэктывы ў беларускім пытаньні[56].

Узмацненьне жорсткасьці акупацыйнага рэжыму ў Беларусі ўвосень 1942 г., а асабліва фіяска плянаў стварэньня корпусу Беларускай самаахвовы выклікала відавочную рэвізію стаўленьня да Польшчы нават сярод вядучых дзяячоў Цэнтру. Пры гэтым заслугоўвае ўвагі спроба ўсталяваньня кантакту з польскім падпольлем, зробленая Астроўскім, тагачасным кіраўніком цывільнай адміністрацыі ў Смаленску. Будучы праездам у Варшаве 21 лістапада 1942 г. ён сустрэўся з Тамкевічам (“Кшыштафам”) зь БІПу і, спасылаючыся на паўнамоцтвы, атрыманыя ад кіраўніка Цэнтру Шчорса, прапанаваў пачаць перамовы, якія мелі прывесьці да супрацы на прынпыпах фэдэрацыі і польскай дапамогі ў пабудове беларускай дзяржавы. “Кадры інтэлігенцыі сьціплыя, — заўважыў Астроўскі, — таму Польшча павінна дапамагчы ў гэтай справе, пасылаючы на тамтэйшыя землі сваіх людзей, якія былі б большымі беларусамі, чым самі беларусы”[57]. З гэтай размовы Тамкевіч вынес адмоўнае ўражаньне і боязь правакацыі, і пасьля таго, як Галоўнае камандаваньне сфармавала сваю ацэнку Астроўскага, ягоная прапанова была праігнараваная[58].

Пасьля няўдалай спробы Астроўскага ў Варшаве адбылося пэўнае пацяпленьне што да ПБН. У значнай меры да гэтага спрычынілася зьмена на пасадзе Дэлегата ўраду, якую па сьмерці Ратайскага ў верасьні 1942 г. заняў прадстаўнік Сялянскай партыі Пекалкевіч, больш прыхільны да паразуменьня зь беларусамі, чымся ягоны папярэднік. У гэтай сытуацыі старшыня ЦК ПБН Станкевіч (“Гжацкі”) пасьля прыбыцьця ў канцы сьнежня ў Варшаву безь вялікіх цяжкасьцяў дамовіўся з Тамкевічам аб арганізацыі 26—28 студзеня 1943 г. канфэрэнцыі ў пытаньні супрацы з удзелам прадстаўнікоў Дэлегатуры. Тым часам ён паехаў у Прагу і Кракаў. Паведамляючы пра сваю сустрэчу з Станкевічам, Тамкевіч зьвяртаў увагу кіраўніцтва на тое, што ПБН праз сваю віленскую арганізацыю дасягнула дамоўленасьцяў зь літоўцамі, мае шчыльныя кантакты з чэхамі і вельмі разьлічвае на іх дыпляматычную дапамогу, а таксама намагаецца дамовіцца з украінцамі. Пры гэтым ён паведамляў, што

> утвараецца літоўска–беларускі хаўрус пад эгідай Чэхіі, якая, напэўна, такім спосабам імкнецца стварыць ува ўлоньні будучай канфэдэрацыі процівагу Польшчы[59].

Цяжка сказаць, у якой меры гэтая інфармацыя адпавядала рэчаіснасьці, а ў якой была разьлічаная на ўзмацненьне перамоўнай пазыцыі Станкевіча на блізкай канфэрэнцыі. Аднак фактам ёсьць тое, што ёй быў нададзены афіцыйны характар. Паводле ўспамінаў Дабрынскай — адной з арганізатараў і ўдзельнікаў гэтай канфэрэнцыі, — у ёй узялі ўдзел Макавецкі і Тамкевіч з Галоўнага камандаваньня АК, а таксама прадстаўнікі Дэлегатуры і палітычных партыяў з ППК — сацыялістычнай і народнай[60].

[55] Poczta do rządu: Sprawy narodowościowe w okresie 15.7—15.9.1942, CA PZPR, 202/I–31, k. 94—95.
[56] Depesza Sikorskiego z 5—6.8.1942, CA PZPR, 202/I–9, k. 4.
[57] Raport “Krzysztofa” “Rozmowa z delegatem białoruskim” z 21.11.1942, CA PZPR, 202/II–22, k. 116—117.
[58] Armia Krajowa w dokumentach. T. II. S. 390. Meldunek Roweckiego z 20.12.1942.
[59] Raport “Krzysztofa” o rozmowie z “Hżackim” z 21.12.1942, CA PZPR, 203/VII—37, k. 6.
[60] Паведамленьні Дабрынскай 1979—1980 гадоў. Паводле яе слоў, перамовы адбываліся ў канспірацыйнай кватэры БІПу на вул. Ракавецкай.

Мяркуючы па згаданым рапарце Тамкевіча ("Кшыштафа") ад 21 сьнежня, Станкевіч меў намер абмеркаваць пытаньне незалежнасьці беларускай дзяржавы, "так ці інакш абапертай на Польшчы", а таксама выданьне польскім урадам дэклярацыі аб неабходнасьці яе стварэньня. Ён надалей ня бачыў патрэбы ў падрыхтоўцы збройнай барацьбы супраць немцаў, але згаджаўся распачаць прапагандысцкую дзейнасьць у імя паразуменьня з Польшчай.

Паводле Дабрынскай, аднак, у бурнай дыскусіі дамінавала тэрытарыяльная праблема, пры чым ніводзін з бакоў ня быў схільны да перагляду сваёй папярэдняй пазыцыі. Можна дапусьціць, што ў гэтай сытуацыі не было дасягнутае паразуменьне таксама і ў справе разгляду праблемы мяжы як адкрытага пытаньня, у выніку чаго дыскусія аб асноўных патрабаваньнях ПБН станавілася беспрадметнай. Адначасна польскі бок моцна націскаў на неабходнасьць далучэньня беларусаў да супольнай узброенай барацьбы зь немцамі, на што Станкевіч у канцавым выніку згадзіўся. З увагі на фіяска плянаў стварэньня корпусу Беларускай самаахoвы і дасягненьня кантролю нацыяналістаў над афіцэрскім складам, удзел ПБН у гэтай справе пакуль павінен быў палягаць у арганізацыі ў Беларусі сеткі базаў для жаўнераў Арміі Краёвай[61]. Такім чынам, абмежаванае вайсковае ўзаемадзеяньне было адзіным пытаньнем, узгодненым падчас Варшаўскай канфэрэнцыі, з чым абодва бакі, аднак, зьвязвалі розныя разьлікі. Для Станкевіча гэта стварала магчымасьць падтрыманьня кантакту з польскім падпольлем у надзеі на прызнаньне польскім урадам незалежніцкіх памкненьняў беларусаў. Польскі ж бок спадзяваўся выкарыстаць гэты кантакт для падтрымкі з боку ПБН пазыцыі польскага ўраду ў пытаньні ўсходняй мяжы, што з увагі на паразу Нямеччыны пад Сталінградам было — на яго думку — больш рэальнай альтэрнатывай, чымся канцэпцыі беларускіх нацыяналістаў.

Пра гэта сьведчыць наступная дэпэша Пекалкевіча аб канфэрэнцыі з Станкевічам, дасланая ўраду 12.02.1943:

> Адбылася размова з старшынём беларускай незалежніцкай арганізацыі, які вяртаўся з Прагі. Ён хоча супрацоўнічаць з намі, але жадае фармальнай дамоўленасьці, якія правы атрымаюць беларусы ў Польшчы. Мы прапанавалі раўнапраўнасьць беларускай мовы ў судох першай інстанцыі і старастваx і ў самакіраваньні, а таксама беларускія пачатковыя і сярэднія школы... Прашу інструкцыяў у беларускім пытаньні[62].

Такім чынам, упаўнаважаны ўраду ня выказаў свайго стаўленьня да праблемаў, якія цікавілі кіраўніцтва ПБН, вылучыўшы заміж гэтага пытаньні тыпова ўнутрыдзяржаўнага характару.

Падобныя тэндэнцыі выяўляла таксама Галоўнае камандаваньне АК.

> Здабыццё прыхільнасьці беларусаў і ўкраінцаў да польскай палітыкі, — перадаваў Равэцкі ў Лёндан, — магло б... забясьпечыць нам англасаксонскую падтрымку ў гэтым пытаньні (усходніх земляў. — *Ю.Т.*) і ўскладніць гульню Расеі. Каб дасягнуць гэтага, патрэбна выразная дэклярацыя аб ураўнаньні гэтых меншасьцяў у правах і забесьпячэньні ім магчымасьці культурнага

[61] Дабрынская сьцьвярджае, што гэтыя базы насамрэч былі арганізаваныя ў шэрагу беларускіх вёсак, аднак былі зьнішчаныя аддзеламі НУЗ*. Інфармацыю аб гэтых падзеях разам зь сьпісам зьліквідаваных базаў БІП павінен быў пераслаць у Лёндан. — *Ю.Т.*

* НУЗ (Narodowe Siły Zbrojne, Нацыянальныя ўзброеныя сілы) — польская крайне правая падпольная вайсковая арганізацыя. Фармальна ўзьнікла 20 верасьня 1942 г., рэальна існавала зь ліпеня 1942 г. Змагалася з камуністычным падпольлем. З 1944 г. супрацоўнічала зь немцамі. У студзені 1945 г. асноўныя сілы НУЗ пры дапамозе немцаў выбраліся на тэрыторыі, пазьней занятыя амэрыканскімі войскамі. — *Рэд.*

[62] Depesze do rządu, CA PZPR, 202/I—7, k. 11.

разьвіцьця. Аднак не дастаткова абмежавацца абяцаньнямі, але трэба было б выдаць адпаведныя дэкрэты і распараджэньні. Калі мы ўтрымаем усходнія землі — то гэтыя акты і так будуць патрэбныя, калі не — то ня змогуць зашкодзіць[63].

Акрэсьліць правы беларусаў і ўкраінцаў патрабавала ад ураду таксама і пастанова Палітычнага пагадняльнага камітэту, прынятая 14 лютага галасамі "сялянаў", сацыялістаў і старшыні насуперак галасам Нацыянальнай партыі і Партыі працы[64]. Урад, аднак, не зьмяняў сваёй ранейшай пазыцыі ў гэтым пытаньні. Яе выказаў прэзыдэнт РП Рачкевіч у сваёй навагодняй прамове:

Адзіным рэальным і найтрывальшым апірышчам польскай дзяржавы на ўсходніх землях ёсьць перш за ўсё карэнны польскі нацыянальны элемэнт. <...> Першай і галоўнай задачай нашай палітыкі на ўсходніх землях мусіць быць узмацненьне польскага элемэнту, на які павінна абаперціся ўся палітычная лінія ў дачыненьні да тамтэйшых нацыянальных меншасьцяў[65].

Тэндэнцыі да паразуменьня зь беларусамі зь цяжкасьцю трымаліся ў Дэлегатуры толькі ў пару пяцімесячнага старшынёўства Пекалкевіча. Пасьля ягонага арышту 19 лютага 1943 г. і прызначэньня чарговым Паўнамоцным прадстаўніком ураду сябра Партыі працы Янкоўскага адбыўся паварот да ранейшага курсу, абумоўленага поглядамі Нацыянальнай партыі і Партыі працы. Істотна паўплывала на радыкалізацыю пазыцыі Дэлегатуры разорва ў красавіку 1943 г. дыпляматычных стасункаў СССР з польскім урадам, у выніку чаго перасталі дзейнічаць ранейшыя тактычныя рэзоны ў фармуляваньні канцэпцыі ўсходняй палітыкі. Так, у дасланых у ліпені ў Лёндан "Заўвагах аб нашай міжнароднай палітыцы" Дэлегатура намаўляла затрымаць Чырвоную Армію на мяжы паводле Рыскага трактату і нават адсунуць гэтую мяжу далей на ўсход, далучыўшы да Польшчы Менск і Камянец–Падольскі ў якасьці ваеннай кампэнсацыі[66].

Пры такім раскладзе плянаў беларускае пытаньне чыста зьнікала з поля зроку Дэлегатуры. "Беларускі народ, — сьцьвярджала яна сьледам за Нацыянальнай партыяй, — ажно да цяперашняй вайны не стварыў ані на нашай, ані на савецкай тэрыторыі нічога накшталт уласнае культуры, традыцыяў, літаратуры, ані эліты, здольнай кіраваць дзяржавай і вызначаць лёс сваёй нацыі", у сувязі з чым Дэлегатура ня бачыла падставаў для стварэньня буфэрнай дзяржавы і выказвалася за поўную палянізацыю беларускіх крэсаў зь Меншчынай улучна[67]. У гэтым духу была вытрыманая "Дэклярацыя палітычнай згоды чатырох партыяў", прынятая 15.08.1943 Краёвым палітычным прадстаўніцтвам, пра што сьведчыць наяўнасьць у ёй згаданага патрабаваньня непарушнасьці рыскай мяжы разам з "адпаведнымі кампэнсацыямі"[68], то бок анэксіяй Менску і Камянца. Гэта сьведчыць пра тое, што прысутная ў дэклярацыі ідэя "ўрэгуляваньня справаў нацыянальных меншасьцяў на аснове традыцыйнай свабоды і роўнасьці правоў і абавязкаў" магла тычыцца беларусаў толькі тэарэтычна.

Нічога не паказвае на тое, што разьлічаная на прапагандысцкі эфэкт дэклярацыя Краёвага палітычнага прадстаўніцтва знайшла які–небудзь водгук сярод беларускага насельніцтва, што, напэўна, не зьдзівіла яе аўтараў. Пачынаючы зь вясны 1943 г. кіраўніцтва падпольля атрымлівала дакладную і рэгулярную інфармацыю пра настроі бела-

[63] Armia Krajowa w dokumentach. T. II. S. 403 (Depesza Roweckiego do Sikorskiego z 12.1.1943).
[64] Depesza Delegata do rządu z 18.2.1943, CA PZPR, 202/I–7, k. 12.
[65] Mowa prezydenta Rzeczypospolitej // Wschód. 25.01.1943.
[66] Uwagi o naszej polityce międzynarodowej, wysłane 23.7.1943, CA PZPR, 202/I–34, k. 57—60.
[67] Тамсама.
[68] Deklaracje i rozważania programowe organizacji konspiracyjnych 1940—1944. Wybór dokumentów, oprac. M. Turlejska. Warszawa, 1965. S. 68.

рускіх масаў, на якія ўсё большы ўплыў рабілі перамогі Чырвонай Арміі і разьвіцьцё савецкага партызанскага руху. Як адзначалася ў справаздачах Дэлегатуры і Галоўнага камандаваньня АК, якія цяжка падазраваць у тэндэнцыйнасьці:

> Бальшыня беларускіх сялянаў сымпатызуе партызанам і мае прасавецкія настроі. У многіх месцах нават паўсталі камуністычныя ячэйкі, галоўным чынам сярод праваслаўнага насельніцтва. Тым ня менш, нягледзячы на поўную адсутнасьць нашага прапагандысцкага процідзеяньня, пэўныя палянафільскія настроі яшчэ існуюць у каталіцкіх масах, што праўда, хутчэй у патэнцыйным стане[69].

Лягічным наступствам падвышэньня прасавецкіх настрояў было зьмяншэньне польскага палітычнага крэдыту і ўмацаваньне няверы ў вяртаньне польскай дзяржаўнасьці[70]. Таму Дэлегатура ня мела ілюзіяў наконт сваёй падтрымкі з боку беларусаў і не разьлічвала на іх удзел у рэалізацыі сваіх палітычных плянаў.

Гэтага погляду не падзяляла Галоўнае камандаваньне АК, якое пасьля студзеньскай канфэрэнцыі працягвала падтрымліваць кантакт з ПБН у надзеі на заканчэньне перамоў наконт вайсковай каапэрацыі[71]. Аднак рашэньні кіраўніцтва ў пытаньні наступных перамоў сасьпявалі досыць доўга, што, мабыць, было зьвязана зь цяжкасьцямі, якія ўзьніклі пасьля сьмерці Сікорскага і арышту Равэцкага, а таксама з нэгатыўнай пазыцыяй Дэлегатуры. Пэўнае значэньне ў гэтым зьвязку мела таксама рэарганізацыя беларускіх груповак, якія арыентаваліся на супрацу з Польшчай, у выніку якой летам 1943 г. было створанае падпольнае Беларускае нацыянальна–дэмакратычнае аб'яднаньне — БНДА*, у склад якога ўвайшлі Партыя беларускіх нацыяналістаў, узначаленае Грынкевічам Беларускае народнае аб'яднаньне і іншыя дробныя групы[72]. Гэта мела на мэце злучэньне сілаў гэтых груповак, якія нават паводле ацэнак іх кіраўнікоў не былі вялікімі.

Чарговыя перамовы распачаліся ў канцы кастрычніка 1943 г. у Вільні і трывалі зь перапынкамі амаль два месяцы. Польскі бок прадстаўлялі ўпаўнаважаная ГК АК Дабрынская і камандзір віленскай акругі АК палкоўнік Аляксандар Кжыжаноўскі, а БНДА — Станкевіч і Грынкевіч. Варта заўважыць, што размовы адбываліся без удзелу кіраўніка акруговай Дэлегатуры Зыгмунта Федаровіча, што было абумоўлена прынамсі дзьвюма прычынамі. Па–першае, выбар Вільні ў якасьці месца перамоў не азначаў, што яны вяліся на рэгіянальным узроўні; па–другое, прадстаўнікі ГК і БНДА ўлічвалі нэгатыўнае стаўленьне Федаровіча як дзяяча НП да беларускага пытаньня і не разьлічвалі на яго канструктыўны ўдзел. Гэтая акалічнасьць адыграла паважную ролю, паколькі Кжыжаноўскі нават быў абавязаны не паведамляць мясцовай Дэлегатуры дэталяў перамоў. Аднак лякальная салідарнасьць была мацнейшая, і Кжыжаноўскі таемна перадаваў іх Федаровічу, а той, у сваю чаргу, — упаўнаважанаму ўраду ў Варшаве[73]. Менавіта гэтым уцечкам сёньня мы абавязаныя найважнейшымі дэталямі віленскіх перамоў.

---

[69] Sprawozdanie BIP–u "Sprawy narodowościowe w okresie 15.3.—15.7.1943", CA PZPR, 202/III–11, k. 2–4.

[70] Raporty z ziem wschodnich z lipca i sierpnia 1943 r., CA PZPR. 202/I–34, k. 139, 255.

[71] Sprawozdanie BIP–u "Sprawy narodowościowe w okresie 15.3.—15.7.1943", CA PZPR, 202/III–11, k. 2—4.

[72] Przegląd Narodowościowy. № 1, z początku 1944 r., CA PZPR, 202/III–127, k. 4.

[73] У сваіх справаздачах Дэлегатуры ўраду Федаровіч абураўся правядзеньнем перамоў безь яго ведама, намагаўся палітычна дыскрэдытаваць прадстаўнікоў БНДА і абвінавачваў Галоўнае камандаваньне АК у прысваеньні паўнамоцтваў ураду. Параўн.: CA PZPR, 202/II–49, k. 196, 197, 312, Sprawozdania Delegata Okręgu za październik i listopad 1943 r.

* Беларускае нацыянальна–дэмакратычнае аб'яднаньне — нелегальная беларуская нацыянальная арганізацыя, створаная летам 1943 г. у выніку аб'яднаньня Партыі беларускіх нацыяналістаў (пад кіраўніцтвам Я. Станкевіча), Беларускага народнага аб'яднаньня (былой Хадэцыі) і некалькіх іншых, больш дробных групаў. Арыентавалася на супрацоўніцтва з польскім падпольлем. Шырокай дзейнасьці разгарнуць ня здолела. — *А.П.*

На першы плян сярод дыскутаваных пытаньняў выйшлі прынцыпы палітычных узаемадачыненьняў. Як паведамляў Дэлегат Віленскай акругі ў сваёй справаздачы за кастрычнік, польскі бок заявіў, што

> польскі ўрад, нібыта для ўзмацненьня сваёй пазыцыі на міжнародным узроўні, мусіць увесьці ў склад Нацыянальнай рады ў Лёндане прадстаўнікоў украінцаў і беларусаў. Беларусам былі прапанаваныя два месцы[74].

Гэта была новая прапанова, якая, напэўна, мела схіліць прадстаўнікоў БНДА да адмовы ад пазыцыі аб'яднанай Беларусі на карысьць палітычных саступак для беларускай меншасьці ў рамках польскай дзяржавы. Далей у цытаванай справаздачы Федаровіч дакладаў, што:

> Беларусы ў прынцыпе адказалі прыхільна і вылучылі два патрабаваньні ў мэмарандуме, копію якога я павінен атрымаць. Мэмарандум утрымлівае патрабаваньні ў двух варыянтах: адзін на выпадак захаваньня дзяржаўных межаў 1939 г., другі — на выпадак іх пашырэньня ўва ўсходнім кірунку. У абодвух выпадках яны хочуць нацыянальнай аўтаноміі з сталіцай альбо ў Вільні (першы варыянт), альбо ў Менску (другі варыянт).

Гэтая інфармацыя, аднак, аказалася непраўдзівай і ўжо ў наступнай справаздачы была зьняпраўджаная Федаровічам. Насамрэч, існавалі не адзін, а два мэмарандумы БНДА, зь якіх адзін, на францускай мове, быў адрасаваны ўрадам Злучаных Штатаў і Вялікабрытаніі, а другі — польскім уладам. Яны ня ўтрымлівалі згадкі аб нацыянальнай аўтаноміі, але выразна пастулявалі прынцып незалежнасьці Беларусі ў неакрэсьленых дакладна этнічных межах, не выключаючы, тым ня менш, магчымасьці фэдэрацыі[75]. Такім чынам, папярэдняя пазыцыя групоўкі Станкевіча — Грынкевіча ў тэрытарыяльным пытаньні не зьмянілася, што з увагі на аналягічную пазыцыю ГК АК перакрэслівала шанцы на паразуменьне ў справе беларускага прадстаўніцтва ў лёнданскай Нацыянальнай радзе. У кантэксьце тэрытарыяльных супярэчнасьцяў беларусамі была адкінутая формула дэпутацкай прысягі, прыняцьце якой азначала б прызнаньне рыскай мяжы[76].

У варунках існуючых палітычных супярэчнасьцяў шанцы на дасягненьне дамоўленасьці ў абсягу вайсковай супрацы былі мізэрныя, тым ня менш, абодва бакі прыступілі да разгляду праекту стварэньня ў Беларусі супольных польска–беларускіх партызанскіх аддзелаў. З гэтай мэтай было прынятае рашэньне выдаць дзьвюхмоўную адозву, якая заклікала беларусаў і палякаў да барацьбы зь нямецкімі акупантамі за свабоду абодвух народаў. Як паведамляў у студзені кіраўнік віленскай Дэлегатуры, падрыхтоўкай гэтай

[74] Sprawozdanie D.O. w Wilnie za październik 1943 r., CA PZPR, 202/II–49, k. 312–313.

[75] CA PZPR, 202/III–129, k. 38–40. Мэмарандум прэзыдэнту Злучаных Штатаў і ўраду Вялікабрытаніі, падпісаны прадстаўнікамі БНДА "Сымонам Дубніцкім" і "Ганцэвічам" (мабыць, Станкевічам і Грынкевічам) у кастрычніку 1943 г. Копію гэтага мэмарандуму віленская Дэлегатура атрымала толькі ў сьнежні ці ў студзені 1944 г., г.зн. па заканчэньні размоў, а яго пераклад на польскую мову пераслала ў Варшаву (тамсама, 202/III–129, k. 29). Тэкст мэмарандуму БНДА польскім уладам не захаваўся — ён згадваецца ў пратаколе паседжаньня Рады нацыянальнасьцяў ад 17 лютага 1944 (тамсама, 202/III–49, k. 229). Вялікае спазьненьне, зь якім Федаровіч атрымліваў гэтыя дакумэнты, пацьвярджае недавер прадстаўнікоў БНДА да дзяячоў віленскага падпольля.

[76] Przegląd Narodowościowy. № 1, z początku 1944 r. CA PZPR, 202/III–127, k. 4. Даступныя ў краіне архіўныя крыніцы не дазваляюць сьцьвярджаць, ці прапанова ГК АК у справе беларускага прадстаўніцтва ў Нацыянальнай радзе была ўзгодненая з польскімі ўладамі ў Лёндане. Не падлягае сумневу, што падчас віленскіх перамоў з БНДА яна была прадстаўленая Дабрынскай, а размовы ў гэтай справе зайшлі досыць далёка. Пра гэта сьведчыць пошук прыдатных кандыдатаў у Нацыянальную раду. Гэтую функцыю Грынкевіч прапанаваў у тым ліку Язэпу Малецкаму (гл. яго ўспаміны: Пад знакам Пагоні. С. 60).

адозвы спачатку заняліся беларусы, аднак прапанаваны імі тэкст не задаволіў польскі бок, які яго адкінуў. З гэтай прычыны складаньне тэксту адозвы было даверанае палякам, аднак і яны ня здолелі знайсьці належнага падыходу. Размовы цягнуліся досыць доўга, аднак не прывялі да ўзгадненьня пазыцыяў[77]. Найбольшыя супярэчнасьці выклікала пытаньне кіраваньня супольнай партызанкай, з чым была зьвязаная яе палітычная скіраванасьць. З гэтай прычыны прадстаўнікі БНДА адкінулі патрабаваньне польскага кіраваньня і прапанавалі супольнае, чаго, зноў жа, не прынялі прадстаўнікі Арміі краёвай[78]. Сутнасьць праблемы вынікала з характару існуючых у Заходняй Беларусі аддзелаў АК, у якіх беларусы, як правіла, станавілі высокі адсотак асабовага складу[79]. Далейшы іх наплыў у супольна кіраваныя партызанскія аддзелы ў вачах польскага боку ствараў пагрозу таго, што беларусы складуць там большасьць, на што, як можна меркаваць, спадзяваліся лідэры БНДА.

Трэба заўважыць, што Дэлегатура цікавілася віленскімі перамовамі галоўным чынам у аспэкце атрыманьня дэкляарацыі БНДА ў падтрымку пазыцыі ўраду ў справе ўсходняй мяжы. Аднак замік гэтай дэклярацыі, задуманай як адзін з аргумэнтаў у дыпляматычных высілках Станіслава Мікалайчыка, Дэлегатура атрымала згаданыя мэмарандумы БНДА да саюзьніцкіх урадаў і польскіх уладаў, якія ўтрымлівалі незалежніцкія пастуляты[80]. З прычыны адмовы беларусаў Дэлегатура ўжыла іншыя захады, якія мелі на мэце атрыманьне жаданай заявы. Спачатку было заплянавана стварыць з ініцыятывы падпольля беларускі камітэт для выражэньня адпаведнай "грамадзкай думкі", а калі гэтыя спробы праваліліся, была падрыхтаваная фікцыйная дэклярацыя, якая ад імя БНДА "не прызнавала" аб'яднаньня беларускіх земляў, якое адбылося ўвосень 1939 г.[81].

Віленскія перамовы скончыліся няўдачай і выявілі поўную безвыніковасьць папярэдніх спробаў дасягненьня згоды з Польшчай, якія ад сярэдзіны 1941 г. рабіліся Парты-

[77] Sprawozdanie D.O. w Wilnie z początku grudnia 1943 r., CA PZPR, 202/II–49, k. 196. Узгадненьне адозвы, аднак, зайшло досыць далёка, пра што сьведчаць тэхнічныя прыгатаваньні да яе выданьня. Камплектацыяй беларускіх шрыфтоў на просьбу Грынкевіча заняўся Язэп Найдзюк, які кантраляваў друк беларускіх падручнікаў у друкарні Завадзкага ў Вільні. Ён патаемна вынес з гэтай друкарні неабходныя шрыфты і перадаў іх Грынкевічу ў парку каля катэдры г.зв. Цялятніку (ліст Язэпа Александровіча аўтару ад 2.4.1980).

[78] Przegląd Narodowościowy. № 1, z początku 1944 r., CA PZPR, 202/III–127, k. 4. Гэта пацьвярджаецца ўспамінамі Дабрынскай.

[79] Побуг–Маліноўскі ацэньвае іх долю як "адносна высокую" (Pobóg–Malinowski W. Najnowsza historia... S. 323). У Навагрáдзкай акрузе яна складала 40% (Prawdzic–Szlaski J. Nowogródczyzna w walce. Londyn, 1976. S. 229). Гэтыя ацэнкі тычацца, напэўна, беларусаў каталіцкага веравызнаньня, якія альбо адчувалі сваю польскасьць, альбо зь іншых прычынаў уступалі ў АК.

[80] Protokół posiedzenia Rady Narodowościowej z 17.2.1944, CA PZPR, 202/II–49, k. 229. Арыгінал мэмарандуму БНДА прэзыдэнту Злучаных Штатаў і ўраду Вялікабрытаніі Дабрынская прывезла ў Варшаву раней, чым туды трапіў яго пераклад, дасланы акруговым Дэлегатам (гл. зацем 65). Гэты дакумэнт Дабрынская атрымала ў Ерусалімцы пад Вільняй ад Станкевіча, які для большай бясьпекі падчас падарожжа даў ёй фальшывы аўсвайс на імя Людвікі Войцік. Далейшы лёс мэмарандуму невядомы. Інфармацыя Федаровіча, што ён быў дасланы пры дапамозе адной з нэўтральных дзяржаваў (параўн.: CA PZPR, 202/III–129, k. 29, Sprawozdanie Delegatury Wileńskiej za styczeń 1944 r.) не адпавядае рэчаіснасьці. Паводле "Przeglądu Narodowościowego" Дэлегатуры № 8 ад 15.6.1944, гэты мэмарандум "мабыць, так і ня трапіў да месца прызначэньня" (параўн.: CA PZPR, 202/III–127, k. 36). Захаваная ў архіўным зборы Дэлегатуры дакумэнтацыя ("Пошта да ўраду") не пацьвярджае, што ён быў дасланы з Варшавы ў Лёндан. Аднак, беручы пад увагу непаўнату дакумэнтацыі, гэта ня выключана.

[81] Protokół posiedzenia Rady Narodowościowej z 17.2.1944, CA PZPR, 202/II–49, k. 229. List i deklaracja BNDA, тамсама, 202/II–71, k. 131—133a. Аднак гэтая фальшыўка не была выкарыстаная і засталася ў актах Дэлегатуры.

яй беларускіх нацыяналістаў, а пазьней — Беларускім нацыянальна–дэмакратычным аб'яднаньнем. Няшмат магла зьдзейсьніць у гэтым абсягу таксама і БІПаўская група Макавецкага, якая, нягледзячы на схільнасьць да перамоў зь беларускім падпольлем, не магла не зважаць на пазыцыю ўраду ў справе рыскай мяжы. Аб гэтую пазыцыю разьбіліся ўсе ініцыятывы супрацы, незалежна ад таго, ці яны сыходзілі зь беларускага боку, ці з польскага. У канцы 1943 г., напэўна, пад уплывам дамоўленасьцяў Вялікай тройкі ў Тэгеране (28.11—1.12.1943) БНДА конча перастала разьлічваць на падтрымку польскага эміграцыйнага ўраду, у зьвязку з чым далейшыя кантакты з падпольлем былі прызнаныя бязмэтнымі. Ня выключана, што на гэтае рашэньне паўплывала таксама сьмерць Іваноўскага (7.12.1943 г.) — творцы і натхняльніка заходняй арыентацыі.

Асобнае месца ў польска–беларускіх узаемінах у разгляданы пэрыяд займалі спробы наладжаньня супрацы з кіраўніцтвам падпольля, якія працягваў рабіць Астроўскі. Пасьля двухгадовага побыту ў прыфрантавой паласе 21 сьнежня 1943 г. ён стаў прэзыдэнтам створанай немцамі Беларускай цэнтральнай рады (БЦР) у Менску, якая неўзабаве пераняла ў немцаў некалькі кірункаў цывільнай адміністрацыі (асьвета, культура, сацыяльнае забесьпячэньне і інш.), а таксама шляхам мабілізацыі стварыла свае ўзброеныя сілы[82]. Таму вясной 1944 г. перамоўная пазыцыя Астроўскага ў пэўным сэнсе была лепшая, чымся ў канцы 1942 г., і ў многіх дачыненьнях перасягала магчымасьці БНДА, якое, ня лічачы спробаў стварэньня партызанкі, практычна не валодала ўласнымі ўзброенымі сіламі. У гэтай сытуацыі, спадзеючыся на пазытыўную рэакцыю ГК АК, у красавіку 1944 г. Астроўскі накіраваў у Варшаву свайго супрацоўніка Адама Дэмідэцкага–Дэмідовіча з новым пакетам прапановаў на адрас польскіх уладаў[83]. Яны тычыліся ўкладаньня ў будучыні польска–беларускай фэдэрацыі, а падчас вайны — стварэньня беларускага прадстаўніцтва пры польскім урадзе ў Лёндане і рэпрэзэнтацыі гэтым урадам інтарэсаў Беларусі на міжнароднай арэне[84].

Стаўленьне кіраўніцтва падпольля да прапановаў Астроўскага было складаным. Бо ў адрозьненьне ад падпольных ПБН і БНДА, прадстаўленая ім Беларуская цэнтральная рада была афіцыйным органам, створаным нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, што тэарэтычна выключала магчымасьць супрацы. Тым часам пэўную зацікаўленасьць выклікалі ўзброеныя сілы БЦР, якія больш прагматычнае Галоўнае камандаваньне АК спадзявалася, напэўна, выкарыстаць у сваіх апэрацыйных мэтах[85]. Аднак для гэтага

---

[82] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан, 1960. С. 84. — *Ю.Т.*

У лютым 1944 г. пачалося фармаваньне Беларускай краёвай абароны. Гл.: Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй, с. 510—677 гэтага выданьня. — *Рэд.*

[83] Дэмідэцкі–Дэмідовіч ад жніўня 1941 г. да канца чэрвеня 1944 г. выконваў функцыю віцэ–бурмістра Менску. Ён супрацоўнічаў з Іваноўскім, а таксама зь менскай экспазытурай II аддзелу ГК АК, а ў студзені 1944 г. уступіў у АК (псэўданім "Масьлюк") (успаміны Буткевіча 29.5.1971). У 1944 г. ён супрацоўнічаў таксама з Астроўскім, у прыватнасьці, быў чальцом мандатнай камісіі II ўсебеларускага кангрэсу (Другі ўсебеларускі кангрэс. Мюнхэн. 1954. С. 30).

[84] Рамаsuccessoўскі В. Тамсама, с. 201—202; Miesięczna Informacja Narodowościowa. № 1 z 20.5.1944, CA PZPR, 202/III–125, k. 3.

[85] 23 траўня 1944 г. узначалены Кастравіцкім аддзел контравыведкі ("996") атрымаў загад на распрацоўку стваранай арміі — Беларускай краёвай абароны (БКА). Прадметам зацікаўленасьці ГК АК былі: вынікі мабілізацыі, арганізацыйная схема і пункты канцэнтрацыі БКА, настроі сярод салдатаў, старшы афіцэрскі склад, меркаваньні аб кіраўніках і іншае (CA PZPR, 203/III—107, k. 48). Паводле зьвестак, агучаных пасьля вайны Астроўскім, у сакавіку 1944 г. у БКА былі мабілізаваныя каля 100 тыс. чалавек, аднак у выніку адкліканьняў з войска, дэзэртэрства, а таксама недастатковага забесьпячэньня і ўзбраеньня асабовы склад войска скараціўся да 36 тыс. Кіраўніком БКА быў палкоўнік Францішак Кушаль — былы афіцэр Войска польскага. — *Ю.Т.*

была неабходная згода палітычных уладаў, таму ў траўні 1944 г. ГК зрабіла спробу апраўдаць перад урадам калябарацыю Астроўскага, даводзячы, што яна прадыктаваная тактычнымі меркаваньнямі, тады як апірышча для Беларусі ён надалей бачыць у Польшчы і імкнецца да дасягненьня згоды з палітычнымі і вайсковымі групамі падпольля[86].

Ёмістае абгрунтаваньне мэтазгоднасьці супрацы з Астроўскім Галоўнае камандаваньне прадставіла таксама ўпаўнаважанаму ўраду ў рапарце ад 20 траўня 1944 г. У гэтым дакумэнце выказвалася разуменьне палітыкі БЦР і нацыяналістаў, якія зь ёй супрацоўнічалі, што тлумачылася бязмэтнасьцю іх ляяльнасьці да саюзьнікаў, "якія пра беларусаў нічога ня ведаюць і для якіх беларуская справа не ўяўляе праблемы". У гэтым кантэксьце ГК АК падкрэсьлівала пазытыўную ролю Астроўскага, які, нягледзячы на супраціў у грамадзтве, заклікаў да беларуска–польскай супрацы.

> Ён ставіцца варожа, — сьцьвярджаецца ў рапарце, — да ранейшай польскай палітыкі, але хоча супрацы на пэўных умовах. Ён разумее, што палякі не захочуць, каб будаваньне беларускага нацыяналізму, а можа, і дзяржавы, адбывалася бязь іх і насуперак ім — зважаючы на свае ўласныя інтарэсы. Дасягненьне згоды адпавядае таксама інтарэсам беларусаў. Ёсьць погляд, што беларуская моладзь магла б з зброяй у руках адступіць перад бальшавікамі на польскія землі, каб пасьля супрацоўнічаць з заходнімі славянскімі народамі, асабліва з Польшчай[87].

Падтрымліваючы Астроўскага, Галоўнае камандаваньне АК, аднак, не выказвала свайго стаўленьня да яго палітычных патрабаваньняў. Зважаючы на нязьменнасьць афіцыйнай пазыцыі ў пытаньні рыскай мяжы, гэта азначала спробу абысьці гэтае кантравэрсійнае пытаньне і разглядаць яго як адкрытае пытаньне, чаго раней безвынікова дабіваўся Станкевіч. Такім чынам, гэта быў новы, больш гнуткі падыход ГК, які быў абумоўлены часткова тактычнымі меркаваньнямі, а часткова ацэнкай катастрафічнай сытуацыі абодвух бакоў, зважаючы на якую вясной 1944 г. пытаньне змаганьня за мяжу пастулова губляла сваю дагэтулешнюю вастрыню. Тым часам ніякіх зьменаў у падыходзе да гэтага пытаньня не дапускала Дэлегатура, у выніку чаго яна ня бачыла прынцыповай розьніцы паміж пазыцыяй афіцыйнай Беларускай цэнтральнай рады і падпольнага Беларускага народна–дэмакратычнага аб'яднаньня[88]. Бо, калі ня ўлічваць адрознага стаўленьня да супрацы зь Нямеччынай, абедзьве групоўкі стаялі на грунце непадзельнасьці беларускай нацыянальнай тэрыторыі, што абумоўлівала нэгатыўнае стаўленьне Дэлегатуры да іхных ініцыятываў.

Варта заўважыць, што калі на першым этапе вайны няўступчывая пазыцыя эміграцыйнага ўраду і яго Дэлегатуры ў краіне вынікала з надзеі на падтрымку заходнімі саюзьнікамі тэрытарыяльных прэтэнзіяў на ўсходзе, то ў апошнія месяцы напярэдадні паўстаньня яна ўжо была абумоўленая сілай інэрцыі, а не магчымасьцю дзеяньня. Бо дамоўленасьці Ялцінскай канфэрэнцыі, а таксама лютаўская (1944 г.) прамова Чэрчыля ў Гасподзе грамадаў азначалі падтрымку ідэі тэрытарыяльнай непадзельнасьці Беларусі, Літвы і Украіны і перакрэсьлівалі імкненьні эміграцыйнага ўраду да новага падзелу іх тэрыторыяў.

Сытуацыю гэтага моманту адкрыта сфармуляваў у траўні—чэрвені 1944 г. орган Дэмакратычнай партыі "Nowe Drogi":

[86] Armija Krajowa w dokumentach. T. III. Londyn, 1976. S. 430, 448 (Meldunki sytuacyjne Bora–Komorowskiego z 2 i 17.5.1944).
[87] Miesięczna Informacja Narodowościowa z 20.5.1944 (raport Wydziału Informacji BIP), CA PZPR, 202/III–125, k. 3.
[88] Przegląd Narodowościowy. № 8. 15.6.1944, CA PZPR, 202/III–127, k. 36.

> Балянс нашай нацыянальнай палітыкі адмоўны з усіх пунктаў гледжаньня. Ён становіць невымерна важны чыньнік агульнай слабасьці нашай міжнароднай сытуацыі, якую выявіў пяты год вайны. Матэрыяльнай слабасьці мы не кампэнсавалі палітычнай ініцыятывай. Сёньня наш найпершы абавязак — усьвядоміць рэальны стан рэчаў і нарэшце знайсьці мову, на якой мы маглі б паразумецца з украінскім і беларускім народамі, узяць да ведама сумны, але праўдзівы факт, што да нашай дагэтулешняй мовы абодва гэтыя народы засталіся глухімі і варожымі... Размаўляць з украінцамі і беларусамі сёньня мы можам толькі на грунце роўнасьці. Легітымізм і мова літасьцівых уладароў безь сілавога апарату ў зьмененых варунках не даюць плёну. Культурныя, сацыяльныя ці эканамічныя саступкі ўжо ня вабяць[89].

Дэмакратычная партыя пры гэтым усьведамляла, што пэрспэктывы "пераадоленьня цяжкасьцяў і дасягненьня згоды здаюцца горшымі чым калі–кольвек", але тым ня менш усё яшчэ не адкідала спробаў схіліць Дэлегатуру да перагляду яе кансэрватыўнай пазыцыі.

У гэтым кантэксьце заслугоўваюць увагі апошнія ініцыятывы Рады нацыянальнасьцяў пры ўпаўнаважаным ураду, у якой вядучую ролю адыгрываў дэлегаваны Макавецкім зь БІПу Тамкевіч, які выконваў функцыю яе сакратара і фактычнага кіраўніка[90]. Гэтая акалічнасьць тлумачыць характар ініцыятываў Рады нацыянальнасьцяў у беларускім пытаньні, які ў вялікай меры супадаў з пазыцыяй ДП. Гэтак, на паседжаньні Рады 25 траўня 1944 г. яе кіраўнік канстатаваў як поўнае фіяска палітыкі эміграцыйнага ўраду, так і яго няздольнасьць да зьмены сваёй пазыцыі, у зьвязку з чым ён выказаў жаданьне, каб улады ў краіне сталі галоўным, хай і не афіцыйным цэнтрам новай усходняй палітыкі[91]. Як паказвае прыняты Радай нацыянальнасьцяў праект рэзалюцыі, яна выступала за мэтаскіраваную фэдэралісцкую праграму, якая прадугледжвала ўцягненьне Беларусі, Літвы і Украіны ў арбіту польскай палітыкі, што апраўдвала б тэрытарыяльны кампраміс з гэтымі нацыямі[92].

Рада нацыянальнасьцяў усьведамляла, што "якое–колечы іншае разьвязаньне, улучна з рыскай мяжой, толькі б часова адклала непазьбежныя канфлікты", але тым ня менш — з прычыны немагчымасьці рэалізацыі фэдэралісцкай альтэрнатывы — ацэньвала гэтую мяжу як адзіную падставу вырашэньня беларускага пытаньня. У зьвязку з гэтым Рада распрацавала два праекты. Першы зь іх — рэзалюцыя ў беларускім пытаньні ад 29 чэрвеня1944 г. — прадугледжваў забесьпячэньне беларусам поўнага нацыянальнага разьвіцьця ў межах польскай дзяржавы разам з туманнай падтрымкай іх памкненьняў да пабудовы асобнай дзяржавы на ўсход ад рыскай мяжы[93]. Другім быў праект т.зв. Віленскай правінцыі — аўтаномнай беларускай тэрытарыяльнай адзінкі, распрацаваны на падставе ўнесенага ў сярэдзіне 1943 г. праекту Дэмакратычнай партыі[94]. Усе згаданыя ініцыятывы Рады нацыянальнасьцяў былі праігнараваныя альбо адкінутыя кіраўніцтвам Дэлегатуры, што ня значыць, што пазыцыя яе кансэрватыўнай плыні была больш рэалістычнай, чымся прыхільнікаў рэформаў. Гэтак, прынятае 19 ліпеня 1944 г. дырэктарам дэпартамэнту ўнутраных спраў Дэлегатуры "Мушынскага" нэгатыўнае рашэньне што да праекту аўтаномнай "Віленскай правінцыі" мела процідзейнічаць тэндэнцыям разьдзяленьня дзяржавы ў той час, калі ўся Беларусь ужо

[89] Nasza polityka narodowościowa od 1939 r. // Nowe Drogi. 1944. Maj—czerwiec. № 5—6.
[90] Намінальным кіраўніком Рады нацыянальнасьцяў быў намесьнік Дэлегата ўраду Адам Бень (НП).
[91] Referat przewodniczącego Rady Narodowościowej "Problem Narodowościowy w Polsce na tle zagadnień polityki wschodniej", przedstawiony na jej posiedzeniu 25.5.1944, CA PZPR, 202/II–51, k. 34.
[92] Projekt rezolucji Rady Narodowościowej z 26.5.1944, CA PZPR, 202/II–49, k. 251.
[93] Uchwała Rady Narodowościowej w sprawie białoruskiej z 29.6.1944, CA PZPR, 202/XVI–1, k. 25.
[94] Projekt "Prowincji Wileńskiej", CA PZPR, 202/II–50, k. 102–104.

была вызвалена Чырвонай Арміяй[95].

Стаўленьне польскага эміграцыйнага ўраду да беларускага пытаньня ў гады другой сусьветнай вайны было лягічным наступствам яго тэрытарыяльных прэтэнзіяў на ўсходзе, якія прадугледжвалі новы падзел Беларусі. Гэтая пазыцыя азначала працяг польскай інкарпарацыйнай палітыкі, якую здаўна прапаведвала Нацыянальная дэмакратыя, а ў міжваенную пару таксама і кіруючы пілсудчыцка–санацыйны лягер[96]. З прычыны такой пазыцыі ўраду і яго прадстаўніцтваў у краіне фэдэралісцкія канцэпцыі апазыцыйных колаў не маглі знайсьці ніякага ўжытку ў іх дзейнасьці. Гэта пацьвярджаюць вынікі перамоў зь беларускімі нацыяналістычнымі групоўкамі ў Менску, Варшаве і Вільні, якія адлюстроўвалі надзеі Галоўнага камандаваньня АК здабыць падтрымку беларусаў для ўрадавай тэрытарыяльнай канцэпцыі.

*Пераклад зроблены паводле*:
Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej. Tom XIX. 1983.

[95] Opinie Delegatury w sprawie projektu “Prowincji Wileńskiej”, CA PZPR, 202/II–50, k. 108; List “Muszyńskiego” z 19.7.1944, тамсама, 202/II–71, k. 138.

[96] Chojnowski A. Koncepcje polityki narodowościowej rządów polskich w latach 1921—1939. Wrocław, 1979. S. 241—242.

# Генэза і дзейнасьць Беларускай цэнтральнай рады (сьнежань 1943 — чэрвень 1944)

Пасьля нападу гітлераўскай Нямеччыны на СССР летам 1941 г. уся Беларусь апынулася пад нямецкай акупацыяй. Уведзеныя акупантамі новыя адміністрацыйныя падзелы выклікалі істотныя зьмены яе тэрытарыяльнага ўладкаваньня. Гэтак, з даваеннай (1941 г.) тэрыторыі Беларускай ССР была выключаная Беластоцкая акруга, якая спачатку складала асобную адміністрацыйную адзінку, а ў будучыні мелася быць улучаная ў райх. Паўднёвыя раёны Беларусі былі далучаныя да Украіны, а некаторыя яе заходнія землі — да Літвы. Меркавалася, што засталая тэрыторыя Беларусі, трохі павялічаная на ўсходзе, будзе складаць 210,5 тыс. км$^2$ з насельніцтвам каля 9 млн. жыхароў. У такой тэрытарыяльнай форме Беларусь разам зь Літвой, Латвіяй і Эстоніяй утварала большую адміністрацыйную адзінку — райхскамісарыят Остлянд. Далейшы падзел адбыўся 01.09.1941, калі вайсковыя ўлады перадалі цывільным уладам заходнюю частку Беларусі плошчай 53,7 тыс. км$^2$ і з насельніцтвам каля 2,4 млн. чалавек[1]. Засталыя, значна большыя яе тэрыторыі толькі тэарэтычна ўваходзілі ў склад Остлянду, фактычна ж да канца акупацыі імі кіраваў Вэрмахт[2].

У перададзенай цывільным уладам частцы Беларусі найвышэйшай інстанцыяй акупацыйнай адміністрацыі быў генэральны камісарыят у Менску, якім кіраваў гаўляйтэр Вільгельм Кубэ. Яму падпарадкоўваліся акруговыя камісарыяты, якім падпарадкоўваліся ўправы гарадоў, паветаў і гмін. У адрозьненьне ад Літвы, Латвіі і Эстоніі, у Беларусі доўгі час не існавала цэнтральнага органа мясцовай адміністрацыі. У кастрычніку 1941 г. тут была створаная толькі арганізацыя самапамочы (Беларуская народная самапомач, БНС), якой кіраваў прызначаны Розэнбэргам Іван Ермачэнка. У сярэдзіне 1942 г. Кубэ зьбіраўся разгарнуць дзейнасьць БНС і стварыць на яе базе цэнтральны беларускі орган самакіраваньня на чале зь Ермачэнкам, якому ён нават даверыў арганізацыю вайсковага фармаваньня, т.зв. Корпусу беларускай самаахновы[3]. Гэтыя ініцыятывы Кубэ сутыкну-

---

[1] У склад Генэральнай акругі Беларусі з цывільным кіраваньнем ўвайшлі Баранавіцкая, Вялейская, Менская (без усходніх раёнаў) вобласьці, а таксама паўночныя раёны Берасьцейскай, Пінскай і Палескай абласьцеў. Гэтыя тэрыторыі складалі толькі 1/3 частку перадваеннай тэрыторыі БССР. — *А.П.*

[2] Фармаваньне адміністрацыйнай структуры і спосаб кіраваньня ў Беларусі ў гады нямецкай акупацыі падрабязьней прадстаўленыя ў артыкуле “Status Białorusi w Komisariacie Rzeczy Ostland”, апублікаваным у XX томе “Studiów z dziejów ZSRR i Europy Środkowej” (1984).

[3] В. Кубэ меў намер стварыць беларускі орган самакіраваньня яшчэ на пачатку 1942 г. 26 студзеня была створана Галоўная рада БНС (І. Касяк называе яе галоўнай управай), аднак генэральны камісар ня мог зацьвердзіць яе без дазволу імпэрскага міністэрства акупаваных усходніх земляў Розэнбэрга і бяз згоды ведамства Гімлера. Галоўная рада БНС паўстала ў ліпені таго ж году. 10–асабовыя рады БНС былі створаныя ў акругах. 29 чэрвеня 1942 г. Кубэ апублікаваў праект стварэньня беларускіх узброеных сілаў для барацьбы з партызанамі. Стварэньне Корпусу беларускай самаахновы (Беларускай самаахновы — БСА) натыкнулася на супраціў ведамства Гімлера (гл.: Найдзюк Язэп, Касяк Іван. Беларусь учора і сяньня. Мінск, 1993, с. 293—298; Кушаль Франц. Спробы стварэньня беларускага войска. Мінск, 1999, с. 43—55); Туронак Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (С. 510—677 гэтага выданьня. — *Рэд.*). — *А.С.*

ліся з супрацьдзеяньнем паліцыйных колаў і прызначанага ў канцы 1942 г. новага камандуючага СС і паліцыі ў Беларусі Курта фон Готбэрга і не маглі быць рэалізаваныя да сьмерці Кубэ (22.09.1943)[4].

Спроба стварэньня такога органа была зробленая пасьля таго, як абавязкі генэральнага камісара Беларусі пачаў выконваць Готбэрг. 21.12.1943 у Менску ён абвясьціў аб стварэньні Беларускай цэнтральнай рады (БЦР) на чале з прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім[5]. Абвешчаны статут акрэсьліваў БЦР органам прадстаўніцтва беларускага народу, а галоўнай задачай гэтага прадстаўніцтва была мабілізацыя ўсіх сілаў гэтага народу дзеля барацьбы з бальшавізмам. У гэтай галіне БЦР атрымала права і абавязак прадстаўляць уладам адпаведныя прапановы, што выяўляла яе найперш дарадчы характар. Аднак у некаторых галінах (сацыяльная абарона, культура і школьніцтва) яна мела права дзейнічаць самастойна і выдаваць ад уласнага імя прызначаныя для выкананьня пастановы[6]. У сакавіку 1944 г. БЦР абвясьціла вайсковую мабілізацыю ў Беларусі, што сьведчыла пра рост яе паўнамоцтваў і значэньня[7].

У гістарычнай літаратуры юрыдычны статус БЦР ацэньваецца па–рознаму, аднак пераважае погляд (з засьцярогамі), што яна мела характар створанага гітлераўцамі ўраду. Савецкія гісторыкі называюць БЦР “прафашысцкім марыянэткавым урадам”[8]. Падобным чынам яе ацэньвае амэрыканскі дасьледнік Джон Лофтус[9], тады як Нікалас Вакар бачыць у ёй “від цэнтральнай беларускай улады” ці “квазінацыянальны ўрад”[10]. Тым часам Аляксандар Далін[11] і Чэслаў Мадайчык[12] не ўжываюць гэтага азначэньня і не займаюць акрэсьленай пазыцыі ў справе статусу БЦР.

Наагул няшмат вядома пра прычыны і акалічнасьці стварэньня гэтага адмысловага органа. Вакар мяркуе, што рашэньне Готбэрга ў гэтай справе было самастойным, прынятым без загаду з Бэрліну, тады як Далін мяркуе, што яно было вынікам настойлівых высілкаў пранацыяналістычных колаў міністэрства Розэнбэрга[13]. Гэтае пытаньне падаецца істотным, паколькі ў канцы 1943 г., г.зн. падчас стварэньня БЦР, клімат для пашырэньня паўнамоцтваў нацыянальных адміністрацыйных органаў на ўсходзе быў неспрыяльны, пра што сьведчыць нязгода Гітлера з праектам аўтаноміі для Эстоніі і Латвіі, прадстаўленым кіраўнічымі коламі СС[14]. У гэтым кантэксьце несур’ёзна гучаць ацэнкі эміграцыйных дзяячоў БЦР, быццам Нямеччына была змушаная пайсьці на саступкі

[4] Тамсама.

[5] Радаслаў Астроўскі (1887—1976) скончыў гімназію ў Слуцку (1908), вучыўся ўва ўнівэрсытэце ў Пецярбургу і Дэрпце (1908—1913), палітычны і асьветны дзяяч у Менску і Слуцку (1917—1918), у арміі ген. Дзянікіна (1919), дырэктар беларускай гімназіі ў Вільні (1923—1936), чалец кіраўніцтва Беларускай сялянска–работніцкай грамады (1925—1927), а пасьля яе ліквідацыі — прыхільнік і арганізатар супрацы з санацыяй (1928—1936), пасьля вайны — палітычны дзяяч на эміграцыі.

[6] Amtsblatt des Generalkomissars für Weissruthenien. 25.03.1944. № 4. С. 81—82.

[7] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан, 1960. С. 89—90.

[8] Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной Войны. Т. III. Минск, 1982. С. 710.

[9] Loftus J. The Belarus Secret. New York, 1982. P. 3 і н.

[10] Vakar N.P. Belorussia. The Making of a Nation. Cambridge, 1956. P. 202.

[11] Dallin A. German Rule in Russia 1941—1945. A Study of Occupation Policies. London, 1957. C. 222—225.

[12] Madajczyk Cz. Faszyzm i okupacje 1938—1945. Wykonywanie okupacji przez państwa Osi w Europie. T. I. Poznań, 1983. C. 608—609.

[13] Vakar. ... P. 202; Dallin. ... P. 221. — *Ю.Т.*

Мова пра міністэрства акупаваных усходніх абшараў. — *А.С.*

[14] Łossowski P. System okupacji hitlerowskiej i jego funkcjonowanie w radzieckich republikach nadbałtyckich 1941—1944 // Związek Radziecki w latach Wielkiej Wojny Narodowej 1941—1945. Wrocław, 1979. S. 240—241; Madajczyk. ... C. 617.

беларускім нацыяналістам, у выніку чаго паўстала БЦР[15]. Але дасьледнікі сыходзяцца ў тым, што прычынай стварэньня гэтага органа была задума Готбэрга актывізаваць беларускі нацыяналізм і выкарыстаць яго ў партызанскай вайне, якая ішла ў Беларусі. Гэтая ацэнка ў прынцыпе слушная, аднак няшмат тлумачыць у разгляданай справе, бо на нацыяналізм як сродак у барацьбе з партызанкай зь сярэдзіны 1942 г. рабіў стаўку яшчэ папярэдні генэральны камісар Кубэ, што, аднак, выклікала эфэктыўнае супрацьдзеяньне СС і паліцыі і, па іроніі, самога Готбэрга.

У складаным пытаньні генэзы БЦР цалкам абмінаюць ролю Астроўскага. У вялікай меры да гэтага спрычыніўся ён сам, шмат разоў сьцьвярджаючы ў эміграцыйных публікацыях, што аб сваім прызначэньні на пасаду прэзыдэнта БЦР ён даведаўся толькі ў дзень яе абвяшчэньня[16]. Гэтая вэрсія выглядала досыць праўдападобна дзякуючы ўсеагульнаму перакананьню, што нацыяналістычныя групы як у Беларусі, так і ў іншых краёх не маглі эфэктыўна ўплываць на важныя палітычныя рашэньні акупацыйных уладаў. Аднак Астроўскі меў ня толькі амбіцыі адыгрываць важную ролю ў беларускай палітыцы, але таксама й вялікія арганізацыйныя здольнасьці і багаты досьвед, зь якога ён карыстаўся ўва ўмовах нямецкай акупацыі. На пачатку ліпеня 1941 году ён паехаў у Менск і пад патранажам апэрацыйнай групы Б (Einsatzgruppe B) прыступіў да арганізацыі адміністрацыі і паліцыі на тэрыторыі Менскай вобласьці, спадзеючыся на стварэньне цэнтральнага органа беларускай адміністрацыі[17]. Гэтыя надзеі Астроўскі жывіў і ў верасьні 1941 г. ува ўмовах акупацыйнай цывільнай адміністрацыі, пра што сьведчыць яго тагачасная добрая супраца з генэральным камісарам Кубэ[18]. Сытуацыя зьмянілася ў кастрычніку, калі па прыезьдзе Ермачэнкі ў Менск Астроўскі апынуўся на заднім пляне. У канфлікце, які адбыўся паміж імі, Ермачэнка меў адназначна мацнейшыя пазыцыі, бо ён быў прызначаны Розэнбэргам і меў падтрымку Кубэ. У гэтай сытуацыі Астроўскі мусіў пакінуць Менск, што азначала страту беспасярэдняга ўплыву на хаду падзеяў у Беларусі[19].

Пасьля кароткатэрміновага побыту ў Бранску на пачатку 1942 г. Астроўскі прыбыў у Смаленск, дзе пры штабе фэльдмаршала Клюге — камандуючага групы арміяў “Цэнтар” і кіраўніка Апэрацыйнай групы Б — кіраваў адміністрацыяй у падпарадкаванай яму Смаленскай вобласьці. У прыватнасьці, ён арганізаваў добра функцыянуючую паліцыйную сыстэму, спрычыніўшыся да часовай нэўтралізацыі партызанскага руху на Смаленшчыне[20]. Такім чынам, ён здабыў прызнаньне як кіраўніка апэрацыйнай групы Б Наўмана, так і Райнгарда Гелена — афіцэра выведкі ў штабе Клюге. Іх прызнаньне і падтрымка былі неабходныя Астроўскаму ў змаганьні зь Ермачэнкам і Кубэ, без нэўтралізацыі якіх ён ня мог разьлічваць на вяртаньне да дзейнасьці ў Менску. Шанцы Астроўскага вырасьлі ў канцы кастрычніка 1942 г., калі кіраваная Кубэ Беларусь у паліцыйнай сфэры была падпарадкаваная галоўнакамандуючаму СС і паліцыі ў зоне вайсковай адміністрацыі Эрыху фон дэм Баху[21]. Пры такім раскладзе Астроўскі выкарыстоўваў для ўласных мэтаў канфлікт паміж вайсковымі і паліцыйнымі ўладамі і генэральным камі-

[15] Другі ўсебеларускі кангрэс. Мюнхэн, 1954. С. 8.

[16] Kalush V. In the Service of the People for a Free Byelorussia. London, 1964. S. 49.

[17] Ereignismeldungen UdSSR. № 21. 13.07.1941; № 23. 15.07.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233, kl. 2721486 і 2721505; Kalush V. ... P. 35—37; Loftus. ... P. 22.

[18] Ліст Кубэ да Лёзэ (Lohse). 12.08.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 23, kl. 473; Kalush V. ... P. 37.

[19] Галяк Л. Успаміны. Т. I. Бязь месца выданьня (ЗША), 1982. С. 158—159. Гэты аўтар, які быў блізкім супрацоўнікам Астроўскага, паведамляе, што пасьля свайго ад’езду Астроўскі, баючыся Кубэ, часам прыязджаў у Менск, але “затрымліваўся на вельмі нядоўгі час і паказваўся толькі некалькім асобам”.

[20] Loftus. ... P. 36—37.

[21] Тэлеграма галоўнакамандуючага СС і паліцыі Екельна Гімлеру. 31.10.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601763; Ліст Кубэ да Гімлера. 22.12.1942. ... T–175, r. 59/2575296.

сарам Кубэ, які пачаўся ўвосень 1941 г. Нагавор Астроўскага асабліва выдае прасоўваны штабам Клюге праект скасаваньня цывільнай адміністрацыі ў Беларусі і яе падпарадкаваньня вайсковым уладам, рэалізацыя якога азначала б выдаленьне Кубэ зь Менску[22]. Пра гэта сьведчаць таксама даносы на Ермачэнку, якія ідуць з Смаленску[23].

Абедзьве гэтыя справы, незалежна ад таго, як яны адбываліся, скончыліся цалкам памысна для Астроўскага. У выніку падрыхтаваных менскім СД абвінавачаньняў у эканамічных злоўжываньнях у красавіку 1943 г. Ермачэнка быў пазбаўлены сваіх функцыяў і выдалены зь Беларусі, Кубэ ж загінуў ад падкладзенай партызанамі бомбы[24]. Адразу пасьля сьмерці Кубэ — сама позна ў пачатку кастрычніка — Астроўскі прыбыў у Баранавічы[25]. Аднак гэтая паездка не была ані прыватнай, як сьцьвярджаў Астроўскі па вайне, ані выпадковай, бо неўзабаве ў Баранавічы быў перанесены штаб цэнтральнага ўчастка Ўсходняга фронту. У Менску ж разьмясьцілася эвакуаванае з Смаленску кіраўніцтва СД. Такім чынам, кантакт з вайсковымі і паліцыйнымі ўладамі, які забясьпечваў Астроўскаму магчымасьць дзейнічаць у Смаленску, быў захаваны. Таму ў кастрычніку 1943 г. Астроўскі мог заручыцца неабходнымі рэкамэндацыямі ад Готбэрга і быў гатовы да неадкладных дзеяньняў. Аднак Готбэрг, дарма што партызанская вайна ў Беларусі дасягала нечуваных дагэтуль маштабаў, не сьпяшаўся даваць беларусам самастойнасьць і разыгрываць карту беларускага нацыяналізму.

Гэта было абумоўленае перадусім нэгатыўным стаўленьнем Гітлера да палітычнай супрацы з нацыяналістычнымі групамі на ўсходзе. У верасьні 1943 г. гэтае стаўленьне ўзмацнілася ў зьвязку з крызісам даверу да калябарацыйных вайсковых фармаваньняў, г.зв. *Osttruppen* (усходніх аддзелаў), якія Гітлер з прычыны частых выпадкаў дэзэртэрства спачатку загадаў распусьціць, але пазьней згадзіўся іх перавесьці ў Заходнюю Эўропу і на Балканы[26]. Аднак ужо зь вясны 1943 г. у кіраўнічых колах СС паступова нарасталі іншыя тэндэнцыі, скіраваныя да шырэйшага выкарыстаньня антысавецкіх нацыяналістычных рухаў, а адзін з прыхільнікаў гэтага курсу, начальнік Галоўнай управы СС* Готлаб Бэргер**, у жніўні 1943 г. быў прызначаны кіраўніком палітычнага дэпартамэнту ў міністэрстве Розэнбэрга. Гэтыя тэндэнцыі здабывалі падтрымку Гімлера паволі і паступова. Увосень 1943 г. ён падтрымліваў праект аўтаноміі для Эстоніі і Латвіі, аднак яго стаўленьне да славянскіх нацыяў надалей заставалася нязьменным, што выявілася ў ягонай прамове 4.10.1943 на нарадзе групэнфюрэраў СС у Познані, у якой удзельнічаў Готбэрг[27]. Вось жа, у кастрычніку 1943 г. нічога не паказвала на магчымасьць істотнай зьмены нямецкай палітыкі ў Беларусі.

Іншым важным чыньнікам, які, напэўна, уплываў на маруджаньне Готбэрга ў справе БЦР, была сытуацыя на Ўсходнім фронце. Увосень 1943 г. Чырвоная Армія ўвайшла ўва ўсходнія раёны Беларусі, і ў той час было цяжка прадбачыць, як будуць разьвівацца далей-

[22] Ліст Готбэрга да Гільдэбранта. 5.12.1942. Тамсама, T–175, r.138/2666252; Ліст Кубэ да Розэнбэрга. 3.2.1943. Тамсама, T–454, r. 15/288.

[23] Ліст Ермачэнкі да Розэнбэрга. 17.01.1944. Тамсама, T–454, r. 39/1001.

[24] У кнізе “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” (С. 510—677 у гэтым выданьні. — *Рэд.*) аўтар паказвае супярэчнасьці, што выніклі паміж В. Кубэ і СС, у прыватнасьці фон Готбэргам. Апавядаючы пра забойства Кубэ, ён піша, што яго сьмерць “і па сёньняшні дзень не перастае быць таямніцай”. — *А.С.*

[25] Kalush V. ... P. 48.

[26] Dallin A. ... P. 582.

[27] Der Prozess gegen Hauptkriegsverbrecher vor dem Internationalen Militärgerichtshof Nürnberg. B. 29. Nürnberg, 1947. S. 110—173. Толькі ад пачатку 1943 г. ён пачаў адыходзіць ад сваёй папярэдняй пазыцыі да славянскіх народаў, кульмінацыяй чаго была падтрымка руху Ўласава.

* Галоўная ўправа СС — вядучы кіраўнічы орган гэтай арганізацыі, да кампэтэнцыі якога належалі справы кадраў, права, адміністрацыі і г.д. — *А.П.*

** Бэргер Готлаб (1896—1975) — генэрал войскаў СС. 20 жніўня 1943 г. быў прызначаны начальнікам 1–га галоўнага аддзелу імпэрскага міністэрства акупаваных усходніх земляў. — *А.П.*

шыя падзеі на фронце. У гэтым стане рэчаў Готбэрг улічваў магчымасьць хуткай эвакуацыі і ўжо ў кастрычніку загадаў распачаць мінаваньне найважнейшых аб'ектаў у Менску[28].

У такіх варунках стаўка Готбэрга на актывізацыю беларускага нацыяналізму была малапраўдападобнай, калі ўвогуле адыгрывала хоць якую ролю ў ягонай тактыцы. Ён прыбыў у Беларусь у лістападзе 1942 г. і ў хуткім часе праславіўся асаблівай лютасьцю, кіруючы антыпартызанскімі карнымі экспэдыцыямі, падчас якіх гінулі дзясяткі тысяч людзей. Ужо неўзабаве па прыбыцьці ў Менск ён выявіў сваё нэгатыўнае стаўленьне да беларускага нацыяналізму, што разам зь няведаньнем праблемаў гэтага краю было відавочным адлюстраваньнем пазыцыі паліцыйных колаў у іх канфлікце з Кубэ. Вось жа, Готбэрг выступаў супраць палітыкі беларусізацыі Кубэ, змагаўся зь Ермачэнкам, зь недаверам ставіўся да разбудовы паліцыйных батальёнаў г.зв. беларускай самааховы[29].

Гэткае стаўленьне Готбэрга прынцыпова не зьмянілася таксама і ў канцы 1943 г. Пра гэта сьведчыць ягоная заява на канфэрэнцыі ў міністэрстве Розэнбэрга 22.11.1943, калі, згадваючы пляны стварэньня БЦР, ён выказаў недавер да беларусаў, абвінавачваў іх ува ўдзеле ў партызанскім руху, даводзіў, што яны не разумеюць уласнай мовы, выступаў супраць стварэньня культурных установаў, як, напрыклад, тэатру ў Менску, дапускаючы магчымасьць культурнай дзейнасьці толькі на найніжэйшым узроўні фальклёрнай культуры[30]. Дзеля гэтага Готбэрга цяжка падазраваць у тым, што праект стварэньня БЦР ён зьвязваў з плянамі абуджэньня беларускага нацыяналізму, з чаго можна высноўваць, што аўтарам гэтага праекту быў Астроўскі, які сама позна ў канцы лістапада здолеў пераканаць Готбэрга ў яго мэтазгоднасьці. Гэта пацьвярджае іншая акалічнасьць, а менавіта, што падчас гэтай канфэрэнцыі Готбэрг яшчэ быў ня ў стане выкласьці яе ўдзельнікам на чале з намесьнікам Розэнбэрга Альфрэдам Маерам ніякіх падрабязнасьцяў аб сфэры дзейнасьці задуманай БЦР, якую ён акрэсьліў агульна як дарадчы орган. У прыватнасьці, у той час ён ня зьвязваў праект стварэньня БЦР з будовай беларускіх вайсковых фармаваньняў, што амаль усе дасьледнікі ўважаюць за галоўны матыў яе стварэньня. Такім чынам, праект пакуль быў туманны, а гэта сьведчыла, што рашэньне аб выкарыстаньні Астроўскага папярэднічала плянаваньню праграмнай дзейнасьці БЦР.

Пратакол гэтай канфэрэнцыі дазваляе таксама адказаць на пытаньне аб юрыдычных падставах гэтага органа, што асабліва важна з увагі на тагачасныя нэгатыўныя тэндэнцыі ўсходняй палітыкі трэцяга райху. Вось жа, у сваім выступе Готбэрг заявіў, што разглядае толькі магчымасьць актывізацыі Рады даверу (дакладней, Камітэту даверу), створанай Кубэ ў канцы чэрвеня 1943 г.[31], што паказвае, што няма патрэбы выдаваць у гэтай справе дадатковыя юрыдычныя акты. Гэтая заява была ўспрынятая ўдзельнікамі канфэрэнцыі без камэнтароў. Аднак з боку Готбэрга гэта была яўная спро-

---

[28] Мачульский Р. Вечный огонь. Партизанские записки. Минск, 1965. С. 325.

[29] Ліст Бэргера да Ляйбранта. 11.02.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/1057. У дадатку Бэргер перасылаў частку ліста Готбэрга, з нападкамі на Ермачэнку. Пры гэтым Готбэрг выступаў супраць стварэньня БНС беларускіх аддзелаў самаабароны, а беларускі нацыяналізм называў выдумкай беларускіх эмігрантаў і бэрлінскіх салённых палітыкаў.

[30] Пратакол канфэрэнцыі з удзелам Готбэрга ў міністэрстве Розэнбэрга 2—23.11.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 23/483.

[31] Камітэт даверу (Рада даверу) быў створаны 27 чэрвеня 1943 г. — амаль праз год пасьля таго, як 29 чэрвеня 1942 г. Кубэ паклікаў чатырох мужоў даверу: І. Ермачэнку (быў галоўным мужам даверу), А. Адамовіча, І. Касяка і Я. Скурата. Па нейкім часе Ермачэнка прапанаваў увесьці пасады мужоў даверу пры акруговых камісарах. (Гл.: Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня. С. 293—294. 301—302; Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 117—118, 137—139 (С. 510—677 у гэтым выд. — *Рэд.*)) — *А.С.*

ба абысьці складаную фармальную працэдуру, якая практычна не абяцала посьпеху. Насамрэч БЦР зь юрыдычнага гледзішча не магла быць працягам Камітэту даверу, бо насуперак прапагандысцкім пісаньням тагачаснай публіцыстыкі, якія нярэдка паўтараліся і ў паваенныя гады, гэта ня быў асобны беларускі орган ці ўстанова, але пэўнага кшталту дарадчая камісія, якая была інтэгральнай часткай адміністрацыі генэральнага камісара ў Менску[32]. Кампэтэнцыя і функцыі Камітэту даверу і БЦР былі непараўнальныя.

У гэтай сытуацыі зробленая Готбэргам спроба палегчыць юрыдычную працэдуру паказвае, што ён ня толькі прыняў ініцыятыву Астроўскага, але выразна яе падтрымліваў. Таму ня можа быць сумневу, што кантакт паміж імі існаваў ужо перад стварэньнем БЦР, а прызначэньне яе прэзыдэнтам не было для Астроўскага неспадзяванкай. Зрэшты, у адной з сваіх прамоў у студзені 1944 г. ён сам прызнаў, што перш як прыняць гэтую пасаду, ён "доўга і ўсебакова высьвятляў з прадстаўнікамі нямецкай улады іх стаўленьне да беларускай нацыі"[33]. Аднак прызначэньне Астроўскага прэзыдэнтам "актывізаванага" Камітэту даверу магло адбыцца толькі пасьля папярэдняга адхіленьня ад пасады яго дагэтулешняга кіраўніка, бурмістра Менску Вацлава Іваноўскага. Ён загінуў 7.12.1943 у зладжаным Астроўскім замаху[34], які досыць празрыста прадказваў Готбэрг падчас згаданай канфэрэнцыі 22.11.1943. Адно пасьля гэтай падзеі 19.12.1943 у Баранавічах акруговым камісарам Рудольфам Вэрнэрам быў скліканы сход мясцовага актыву, які вылучыў кандыдатуру Астроўскага на прэзыдэнта БЦР[35]. Гэта быў эрзац мандату грамадзкага даверу, на які пазьней спасылаліся Готбэрг і Астроўскі.

З нагоды абвяшчэньня БЦР 21.12.1943 Готбэрг выступіў з прамовай, абяцаючы паляпшэньне харчаваньня і забесьпячэньня прамысловымі таварамі, павышэньне заробкаў, паляпшэньне аховы здароўя і сацыяльнай палітыкі, а таксама паўтарыў свой даўнейшы праект арганізацыі абарончых вёсак. Заміж недаверу да беларусаў і абвінавачваньня іх ува ўдзеле ў руху супраціву, пра што ён казаў месяц таму ў вузкім коле ў Бэрліне, цяпер ён зьвяртаўся да іх як да саюзьнікаў і "фанатычных ворагаў бальшавізму". Зьніклі таксама і ягоныя асьцярогі ў справе разьвіцьця навукі і культуры, найперш што да ўзнаўленьня дзейнасьці тэатру ў Менску, для якога ён цяпер абяцаў шырокую падтрымку[36]. Тыпова прапагандысцкія дэклярацыі Готбэрга былі разьлічаныя перадусім на тое, каб выклікаць уражаньне зьмены нямецкай палітыкі ў Беларусі[37], аднак, напэўна, мелі яшчэ і іншую мэту, а менавіта — адцягненьне ўвагі ад сапраўднага характару створанага органа.

Статут БЦР, апроч названых на пачатку фармальных паўнамоцтваў, утрымліваў палажэньні, якія абмяжоўвалі магчымасьць яе дзейнасьці задачамі, вызначанымі аку-

---

[32] Ліст Кубэ да Лёзэ. 12.8.1943. Тамсама, T–454, r. 23/473.

[33] Прамова Астроўскага 22.01.1944 // Раніца. 1944. 6 лютага. С. 3.

[34] Пра абставіны сьмерці В. Іваноўскага гл. у працах "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" і "Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі". У афіцыйнай публіцыстыцы сьцьвярджалася, што В. Іваноўскага забілі савецкія партызаны, але пераканаўчых доказаў гэтага няма. Улічваючы розныя вэрсіі, "Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі" паведамляе адно, што В. Іваноўскі быў забіты ў Менску. Беларуская энцыклапэдыя ўдакладняе, што ён, "паводле афіцыйнай вэрсіі, забіты савецкімі партызанамі". Афіцыйную вэрсію падтрымлівае і нямецкі гісторык Бэрнгард К'яры ў сваёй кнізе " Штодзённасьць за лініяй фронту" (Менск, 2005). — *А.С.*

[35] Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Успаміны. Таронта, 1976. С. 118—119; Другі ўсебеларускі кангрэс. С. 93.

[36] Раніца. 1944. 9 студзеня. С. 7.

[37] Готбэрг, які выступаў апанэнтам палітыкі Кубэ і ў немалой ступені спрычыніўся да таго, што некаторыя яго праекты не рэалізаваліся, стаўшы генэральным камісарам, сам вымушаны быў праводзіць тую ж палітыку, што і яго папярэднік: ідэя Галоўнай рады БНС пры ім мадыфікавалася ў ідэю Беларускай цэнтральнай рады, а ідэя Беларускай самаабароны — у ідэю Беларускай краёвай абароны. — *А.С.*

пацыйнымі ўладамі. Гэтыя палажэньні тычыліся таксама такіх сфэраў, як сацыяльнае забесьпячэньне, культура і школьніцтва, у якіх БЦР была ўпаўнаважаная да самастойнай дзейнасьці. Усялякія пастановы БЦР у гэтых пытаньнях павінны былі папярэдне зацьвярджацца акупацыйнымі ўладамі. Яе прэзыдэнта прызначаў і здымаў генэральны камісар, які на прапанову прэзыдэнта прызначаў таксама чальцоў Рады[38]. Такім чынам, БЦР ні ў якай меры не была самастойным органам, нават з фармальнага гледзішча. Варта падкрэсьліць, што ані статут, ані інаўгурацыйная прамова Готбэрга ня ставілі БЦР ніякіх канкрэтных задачаў у вайсковай галіне. Урэшце, 21 сьнежня было толькі абвешчана пра стварэньне БЦР, бо, апроч Астроўскага, тады не было прызначана ніводнага чальца Рады. Такім чынам, Готбэрг надалей дзейнічаў вельмі асьцярожна, у выніку чаго створаная была пакуль толькі шыльда для прапагандысцкай дзейнасьці.

Падаецца, што Астроўскі ня быў гэтым расчараваны. У адказе на інаўгурацыйную прамову Готбэрга ён выказаў разуменьне таго, што падчас вайны нельга разьлічваць на поўнае разьвязаньне беларускага пытаньня, аднак выказаў надзею, што гэтае пытаньне будзе разьвязанае “згодна з інтарэсамі беларускай нацыі як саюзьніцы вялікай нямецкай нацыі”[39]. Адначасна ён выказаў адпаведныя дэклярацыі ўдзячнасьці і вернасьці і заклікаў народ да супольнай зь Нямеччынай барацьбы за “канчальную перамогу”. Ведаючы межы кампэтэнцыі і страхі Готбэрга, ён ужываў тактыку малых крокаў і паступовага здабыцьця саступак. У прыватнасьці, ён зрабіў стаўку на тое, што ён у дадзеных варунках мог дасягнуць і ў чым Готбэрг быў найбольш зацікаўлены, г.зн. на прапаганду. Адразу пасьля абвяшчэньня БЦР пры дапамозе рэгіянальнага апарату БЦР ён арганізаваў шматлікія маніфэстацыі ў падтрымку БЦР пад лёзунгам незалежнасьці Беларусі і змаганьня з партызанскім рухам[40]. 10 студзеня 1944 г. ён выступіў з адозвай да народу, распаўсюджанай праз усе даступныя сродкі масавай інфармацыі[41]. Ён заклікаў партызан і насельніцтва, якое знаходзілася пад іх абаронай, адмовіцца ад барацьбы і вярнуцца дадому[42]. Да кампаніі далучылася таксама беларуская Праваслаўная царква[43]. Такога ўзмацненьня прапагандысцкай дзейнасьці ў Беларусі не было ад пачатку акупацыі. З гледзішча выбару сродкаў і мэтадаў узьдзеяньня яна перасягала дагэтулешнія адозвы, няўдольна рэдагаваныя немцамі.

Сапраўднай прычынай прапагандысцкай кампаніі была псыхалягічная падрыхтоўка грамадзтва Беларусі да вайсковай мабілізацыі[44]. Праўда, у студзені 1944 г. Готбэрг яшчэ ня быў паінфармаваны пра канчатковае рашэньне ў гэтым пытаньні, аднак мог спадзявацца, што неўзабаве яно будзе прынятае. На гэта паказвалі перадусім усё большыя паўнамоцтвы СС у пытаньні мабілізацыі ў прыбалтыйскіх краінах[45]. У гэтай сытуацыі быў зроблены чарговы крок да БЦР. Празь месяц пасьля яе стварэньня, 22 студзеня 1944 г., адбыўся першы г.зв. устаноўчы сход БЦР, на якім быў абвешчаны 14–асабовы

---

[38] Amtsblatt des Generalkomissars für Weissruthenien. 25.3.1944. № 4. S. 81—82.

[39] Раніца. 1944. 9 студзеня. С. 8.

[40] Тамсама. 1944. 23 лютага — 20 сакавіка. “Słonimski kurjer” (1944. 15 студзеня) пісаў, што ў мітынгу, арганізаваным у Слоніме, удзельнічала 3000 чалавек. Гэтыя маніфэстацыі адбываліся паводле наперад вызначанага ўзору, пра што сьведчаць ідэнтычныя рэзалюцыі, якія “прымаліся” іх удзельнікамі.

[41] Раніца. 1944. 30 студзеня. С. 1.

[42] Справаздача Готбэрга. 18.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 26/211.

[43] Пастырскі ліст мітрапаліта Менскага і ўсяе Беларусі // Раніца. 1944. 23 студзеня. С. 2.

[44] На пачатку лютага 1944 г. Готбэрг меркаваў, што прапагандысцкая дзейнасьць Астроўскага спрычынілася да арганізацыі абарончых вёсак і да павелічэньня колькасьці беларусаў, якія ўступалі ў паліцыйныя батальёны самаахovы. Параўн.: ліст Готбэрга да Бэргера, 5.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 93/1069.

[45] Myllyniemi S. Die Neuordnung der baltischen Länder 1941—1944. Helsinki, 1973. S. 275.

склад Рады і яе прэзыдыюм[46]. Праз колькі дзён было створана 12 галіновых аддзелаў БЦР, у тым ліку вайсковы аддзел[47]. Аднак яна надалей ня мела сваіх рэгіянальных прадстаўніцтваў. Намаганьні Астроўскага ў гэтай справе рэалізоўваліся паволі, пра што сьведчыць той факт, што толькі 7 лютага 1944 г. яму ўдалося прызначыць першых трох намесьнікаў прэзыдэнта БЦР у Баранавічах, Слоніме і Наваградку[48]. Готбэрг сьцьвярджаў, што ставіць іх дзейнасьць у залежнасьць ад пазыцыі акруговых камісараў[49], аднак фактычна зацяжка ў гэтай справе была абумоўлена адсутнасьцю паўнамоцтваў перадаваць рэгіянальным прадстаўніцтвам БЦР некаторыя сфэры дзейнасьці з–пад кампэтэнцыі нямецкіх акруговых камісараў.

Істотныя зьмены ў становішчы БЦР адбыліся толькі ў канцы лютага 1944 г. у зьвязку з дазволам Гітлера на ажыцьцяўленьне мабілізацыі ў Беларусі[50]. Для рэалізацыі гэтай задачы Готбэрг выкарыстаў Беларускую цэнтральную раду, падаючы гэта як наданьне ёй паўнамоцтваў у вайсковай сфэры. 23 лютага 1944 г. "на прапанову прэзыдэнта БЦР" ён выдаў загад аб стварэньні аддзелаў Беларускай краёвай абароны (БКА)[51]. Згодна з гэтым загадам (пункт 2), БЦР атрымала заданьне правесьці на дакладна акрэсьленых землях генэральнай акругі Беларусі мабілізацыю найперш афіцэраў і сяржантаў, а наступным этапам — прызыўнікоў.

БЦР адразу распачала адпаведную прапагандысцкую і арганізацыйную падрыхтоўку. Ужо 25 лютага ў Менску быў скліканы правакацыйны мітынг, на якім нібыта ўцякач з Чырвонай Арміі капітан Ігар Капор апрылюдніў "таемны загад Сталіна" аб поўным зьнішчэньні беларускага народу, у зьвязку з чым была сфабрыкаваная рэзалюцыя, якая сьведчыла аб гатоўнасьці гэтага народу змагацца з бальшавізмам[52]. У той самы дзень БЦР прызначыла сваіх акруговых начальнікаў у Менску, Баранавічах, Глыбокім, Наваградку, Слоніме, Слуцку і Вялейцы, г.зн. у акругах, у якіх згодна з загадам Готбэрга мела адбыцца мабілізацыя[53]. Неўзабаве распачалося стварэньне акруговых прызыўных камісіяў, якія — згодна з памянёным загадам Готбэрга — павінны былі складацца выключна зь мясцовага пэрсаналу. Гэта стварыла падставу для разбудовы апарату БЦР у рэгіёнах, у зьвязку з чым у канцы лютага былі арганізаваныя яшчэ тры адміністрацыі намесьнікаў прэзыдэнта БЦР у Менску, Глыбокім і Вялейцы[54].

Вайсковыя паўнамоцтвы вымагалі ўзмацненьня фармальных паўнамоцтваў БЦР, таму толькі ў сакавіку Готбэрг наважыўся апублікаваць яе статут у сваім афіцыйным пэрыёдыку. Падчас чарговай нарады ў міністэрстве Розэнбэрга 1 сакавіка 1944 г. ён выказаўся за магчымасьць перадачы БЦР некаторых сфэраў адміністрацыі ў Беларусі пры захаваньні ў сваіх руках агульнага кіраўніцтва і нагляду. Пажаданы статус БЦР Готбэрг ацэньваў дваіста: ці як дапаможны дарадчы орган, ці як цэнтральная інстанцыя беларускай адміністрацыі. Разьвязаньне гэтага пытаньня ён ставіў у залежнасьць ад таго, як БЦР вырашыць пастаўленыя задачы, спаміж якіх за найважнейшую ён уважаў

---

46 Раніца. 1944. 6 лютага. С. 2.

47 За дзяржаўную незалежнасьць... С. 84—85.

48 Тамсама, с. 86.

49 Пратакол канфэрэнцыі з удзелам Готбэрга ў міністэрстве Розэнбэрга 01.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 31/003.

50 Пра дазвол Гітлера на вайсковую мабілізацыю ў Беларусі сьведчыць тэлеграма сталага намесьніка Розэнбэрга, Маера, Заўклю ад 11.07.1944. Параўн.: Der Prozess gegen Hauptkriegsverbrecher... T. XXV, PS–199. З далейшых дзеяньняў Готбэрга вынікае, што гэты дазвол ён атрымаў у сярэдзіне лютага 1944 г.

51 Загад Готбэрга аб стварэньні БКА. 23.02.1944. Archiwum Głównej Komisji Badania Zbrodni Hitlerowskich w Polsce, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 7/2508453.

52 Раніца. 1944. 19 сакавіка. С. 1—2; Ostland (Riga). 1944. № 10. Красавік. С. 29.

53 За дзяржаўную незалежнасьць... С. 86.

54 За дзяржаўную незалежнасьць... С. 88.

мабілізацыю насельніцтва да змаганьня з савецкай партызанкай. З гэтай нагоды Готбэрг абнародаваў свой плян стварэньня ў Беларусі цягам 4—6 тыдняў антыпартызанскага фармаваньня (г.зв. *Kampfgruppen von Gottberg*) сілаю 20 тыс. чалавек, якое мела складацца з расейскай брыгады Камінскага[55] ў складзе 7 тыс. чалавек, казацкіх і каўкаскіх батальёнаў ды частак Беларускай краёвай абароны[56]. Падчас гэтай канфэрэнцыі Готбэрг, праўда, не назваў плянаванага колькаснага складу БКА, аднак з пададзеных ім зьвестак вынікае, што ён меў быць трохі большым за 10 тыс. чалавек[57].

Амбіцыі Астроўскага з гэтага пункту гледжаньня былі значна большыя, пра што сьведчыць той факт, што на падставе ягонага загаду аб мабілізацыі ад 6 сакавіка на прызыўныя камісіі ў абавязковым парадку былі выкліканыя 40 тыс. мужчын[58]. Прызыў у войска такой колькасьці людзей ставіў пад пагрозу функцыянаваньне розных установаў і прадпрыемстваў, таму ў выніку ўмяшаньня акруговых камісараў больш за 50% мабілізаваных адразу выправілі дадому. Тым ня менш, да 15 сакавіка ў БКА былі прызваныя 19 тыс. чалавек[59]. Цягам наступных дзён гэтая лічба трохі вырасла, і пры канцы сакавіка ў шэрагах БКА знаходзілася каля 22 тыс. чалавек[60]. У БКА былі ўлучаныя таксама колькі ранейшых беларускіх батальёнаў самаабароны, колькасны склад якіх паводле стану на канец лютага складаў 2,2 тыс. чалавек[61]. Асабовы склад БКА пры канцы сакавіка 1944 г., такім чынам, на падставе тагачаснай нямецкай дакумэнтацыі можна ацаніць на 24—25 тыс[62]. На падставе загаду Готбэрга ад 10 сакавіка была

---

[55] Маецца на ўвазе брыгада Расейскай вызваленчай народнай арміі (РОНА), створаная восеньню 1942 г., якой кіраваў ураджэнец Полаччыны Браніслаў Камінскі (1889—1944). У студзені 1943 г. налічвала 10 тыс. чалавек. Асноўнай задачай брыгады была барацьба з партызанскім рухам. Спачатку брыгада дзейнічала на Браншчыне, з 1943 г. — на Віцебшчыне. Летам 1944 г. брыгада Камінскага была ўключана ў склад войскаў СС і пераўтворана ў 129-ю грэнадэрскую дывізію войскаў СС (1-ю расейскую). — *А.П.*

[56] Пратакол канфэрэнцыі з удзелам Готбэрга ў міністэрстве Розэнбэрга 1.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, г. 31/003.

[57] Колькасны склад казацкіх і каўкаскіх частак, створаных з эвакуаванага ў Беларусь насельніцтва паўднёвых земляў СССР, можна ацаніць усяго ў 2—3 тыс. Два казацкія батальёны былі сфармаваныя ў Наваградзкай акрузе і два каўкаскія — у Слонімскай акрузе. Параўн.: загад Готбэрга ад 15.03.1944, AGKBZH, александрыйскія мікрафільмы, Т–175, г. 7/2508449. — *Ю.Т.*

Частка кубанскіх і данскіх казакоў, а таксама насельніцтва паўночнакаўкаскіх рэспублік і абласьцёў Расеі была эвакуаваная ў Беларусь у 1943 г. — пасьля паразы Вэрмахту пад Сталінградам і Курскам. — *А.С.*

[58] Тэлеграма Готбэрга да Розэнбэрга. 17.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, г. 21/522.

[59] Тамсама.

[60] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 97—98.

[61] Паводле паведамленьняў Готбэрга, у студзені 1944 г. у склад падпарадкаваных яму паліцыйных сілаў на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі ўваходзілі тры беларускія батальёны самаабароны (г.зв. Schutzmannschaften): № 48 у Слоніме, № 49 у Менску і № 60 у Баранавічах, агульнай лічбай 1499 чалавек. На працягу лютага 1944 г. былі створаныя батальёны № 65 у Наваградку і № 66 у Слуцку, распачалося таксама іх фармаваньне ў Глыбокім і Лідзе. Паводле стану на 29.02.1944, колькасны склад гэтых частак дасягнуў 2167 чалавек. Шмат разоў большым быў асабовы склад разьмешчаных у Беларусі літоўскіх, латыскіх і ўкраінскіх паліцыйных батальёнаў. Параўн.: Kräfteübersichten ад 30.01. і 1.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–175, г. 225/2764380–394.

[62] Асабовы склад БКА ў гістарычнай літаратуры ацэньваецца вельмі па-рознаму, прычым аўтары, як правіла, не паведамляюць, якога пэрыяду тычацца іхныя ацэнкі. Лёфтус (тамсама, с. 36) ацэньвае яго на 60 тыс., К. Акула (Змагарныя дарогі. Таронта—Мюнхэн, 1962. С. 32) — каля 50 тыс., В. Астроўскі (Spotlight on Byelorussia and her Neighbours. London, 1959. P. 36) — каля 36 тыс. В. Кіпель (Беларуская Думка. Нью-Ёрк—Саўт-Рывэр, 1974—1975. № 18—19. С. 6) паведамляе, што БКА налічвала 49 батальёнаў па 500 чалавек, г.зн. у суме 24,5 тыс. Гэтая ацэнка ў прынцыпе супадае зь нямецкай дакумэнтацыяй. Скрайняе меркаваньне прадстаўляе У. Банусяк (Polityka ekonomiczna III Rzeszy na okupowanych obszarach ZSRR. Rzeszów, 1981. S. 82), сьцьвярджаючы, што БКА ўвогуле не была створаная. — *Ю.Т.*

скасаваная пасада нямецкага камандзіра беларускіх аддзелаў самаабароны[63], якія разам з наваствoранымі аддзеламі БКА перайшлі пад кіраўніцтва маёра Францішка Кушаля, які неўзабаве быў павышаны да рангу падпалкоўніка. На базе вайсковага аддзелу БЦР было створанае галоўнае камандаваньне БКА, якое часам звалі яе штабам. Гэтыя захады сьведчылі пра зьяўленьне асобнага беларускага вайсковага фармаваньня, якое не ўваходзіла ў склад нямецкіх узброеных сілаў.

Такім чынам, створаная БЦР Беларуская краёвая абарона была, нягледзячы на масавыя пратэсты нямецкіх акруговых камісараў, значна большая, чым плянаваў Готбэрг. Гэта адлюстроўвала імкненьне Астроўскага стварыць у гэтай сфэры адбыты факт з туманнай надзеяй вырашыць матэрыяльныя і арганізацыйныя цяжкасьці, якія выявіліся адразу пасьля мабілізацыі. Не ставала найперш афіцэраў, абмундзіраваньня і зброі. Готбэрг, праўда, спрабаваў дамагчыся пастаўкі з Бэрліна 20 тыс. вінтовак, аднак іх не даставілі прынамсі да сярэдзіны траўня[64]. Таму невялікую іх колькасьць перадалі зь мясцовых складоў. Частку аддзелаў выкарыстоўвалі для розных работ як “сапёрныя батальёны”[65]. Гэтыя акалічнасьці прывялі да пагаршэньня дысцыпліны і шматлікіх выпадкаў дэзэртэрства, да чаго ў значнай меры спрычынялася прапагандысцкая дзейнасьць партызанаў[66]. У сярэдзіне траўня Астроўскі быў змушаны высунуць прапанову зьменшыць асабовы склад БКА да колькасьці атрыманых адзінак зброі. Гэтая прапанова практычна была зацьверджаная БЦР пад прэтэкстам “пазбаўленьня войска ад непажаданых элемэнтаў”[67]. Такім чынам, асабовы склад БКА адзначаўся вялікай цякучасьцю і ў апошнія тыдні акупацыі быў значна меншы, чым пры канцы сакавіка. З апэрацыйнага гледзішча часткі БКА былі падпарадкаваныя камандзіру СС і паліцыі. У траўні—чэрвені 1944 г. яны выкарыстоўваліся для змаганьня з савецкай партызанкай. 15.6.1944, г.зн. два тыдні перад эвакуацыяй, у Менску была адчыненая афіцэрская школа БКА.

Абяцаная ў дзень абвяшчэньня БЦР перадача ёй адміністрацыйных паўнамоцтваў адкладалася зь месяца на месяц. Толькі ў сярэдзіне траўня 1944 г. Готбэрг паведамляў аб перадачы БЦР “розных адміністрацыйных і культурных установаў”, якія дагэтуль былі пад нямецкім кіраваньнем[68]. Таксама Астроўскі ў чэрвені казаў аб пераходзе пад яго кантроль школьніцтва, культуры і сацыяльнага забесьпячэньня разам з арганізацыяй самапомачы[69]. Пра гэта, напэўна, было дамоўлена на цэнтральным узроўні, тады як у рэгіёнах у сутнасьці не было ніякіх зьменаў, бо адпаведныя аддзелы надалей заставаліся ў рамках акруговых камісарыятаў. У найлепшым выпадку акруговыя намесьнікі БЦР цяпер маглі мець большы ўплыў на бягучыя справы, галоўным чынам школьніцтва. Пры гэтым варта заўважыць, што ў некаторых акругах (Ліда, Ганцавічы) да канца акупацыі не былі створаны адміністрацыі гэтых намесьнікаў[70], у іншых жа месцах яны не карысталіся падтрымкай нямецкіх акруговых камісараў (Глыбокае)[71].

У сакавіку 1944 г. БЦР быў перададзены Гарадзкі тэатар у Менску, які толькі ў траўні аднавіў сваю дзейнасьць, у красавіку былі перададзеныя бібліятэкі, якімі павінна было

Камандуючы БКА паведамляў, што ў канцы красавіка 1944 г. у ёй мелася 39 батальёнаў пяхоты і 6 сапёрных батальёнаў (Кушаль Ф. Спробы стварэньня беларускага войска. С. 87). — *А.С.*

[63] Загад Готбэрга ад 10.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 226/2765446.

[64] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 107.

[65] Тамсама, с. 97, 108.

[66] Всенародное партизанское движение… С. 146, 172, 182, 195, 250.

[67] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 107—108.

[68] Справаздача Готбэрга. 18.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 26/211.

[69] Другі ўсебеларускі кангрэс… С. 20.

[70] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 84—118.

[71] Справаздача акруговага камісара ў Глыбокім. 16.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/306.

загадваць Беларускае культурнае згуртаваньне. У культурнай дзейнасьці рабілася стаўка на традыцыі дваццатых гадоў, у тым ліку было адноўленае выданьне літаратурнага часопіса "Ўзвышша", які выходзіў у Менску да 1931 г. 19 сакавіка было арганізавана Беларускае навуковае таварыства[72], якое праяўляла ніякай практычнай дзейнасьці. У чэрвені 1944 г. БЦР плянавала пераняць аддзелы сацыяльнага забесьпячэньня, якія існавалі пры акруговых камісарыятах[73]. Усе гэтыя захады мелі мізэрнае практычнае значэньне, аднак ім надаваўся шырокі прапагандысцкі розгалас. Асабліва асьвятляліся пляны на будучыню, праектавалася расшырэньне школьніцтва, адкрыцьцё вышэйшых навучальных установаў, пабудова новых тэатраў, распрацоўваліся праекты пэнсійнага забесьпячэньня і да т.п., нібыта дні нямецкай акупацыі ў Беларусі не былі ўжо зьлічаныя. За месяц да эвакуацыі Астроўскі падаў Готбэргу плян фінансавых патрэбаў БЦР на 1944 год, які ўяўляе цікавую ілюстрацыю плянаваных кірункаў яе дзейнасьці. Ён заканчваўся сукупнай сумай 140,3 млн. марак, з чаго выдаткі на войска (БКА) павінны былі складаць 65,7% і на школьніцтва — 32,5%[74]. Гэта сьведчыць аб вялікім значэньні, якое надавалася функцыянаваньню школьніцтва, а таксама аб тым, што заплянаваная дзейнасьць у галіне культуры ў прынцыпе мелася будавацца на грамадзкіх пачатках.

Апошняй акцыяй БЦР у Беларусі быў другі ўсебеларускі кангрэс, які адбыўся 27 чэрвеня 1944 г. у Менску. Праект яго скліканьня Астроўскі высунуў ужо ў сьнежні 1943 г.[75], аднак яго рэалізацыю Готбэрг дазволіў толькі пасьля высадкі войскаў саюзьнікаў у Нармандыі[76], што прадвяшчала хуткі наступ Чырвонай Арміі і адступленьне немцаў зь Беларусі. У гэтай сытуацыі ён мог згадзіцца з ініцыятывай Астроўскага. Ня выключана, што і ў гэтай справе Готбэрг меў згоду Бэрліна, напэўна, Бэргера, хоць беспасярэднія довады гэтага ў выглядзе архіўнай дакумэнтацыі адсутнічаюць. На падтрымку гэтай імпрэзы бэрлінскімі ўладамі паказвае, у прыватнасьці, прыезд у Менск "дэлегатаў" зь мясьцінаў за межамі кіраванай Готбэргам тэрыторыі Беларусі, а менавіта зь Літвы, Латвіі, Варшавы, Лодзі, Кракава, Кёнігсбэргу, Вены і Бэрліна[77]. Яны мусілі атрымаць ня толькі пропускі, але і адпаведныя загады на выезд у Менск. Кангрэс, які нібыта сабраў 1039 дэлегатаў, доўжыўся адзін дзень пад кананаду фронту[78].

Кангрэс абвясьціў сябе "паўнапраўным і найвышэйшым прадстаўніцтвам беларускага народу" і "аднагалосна прыняў" рэзалюцыю, якая пацьвярджала дэклярацыю незалежнасьці Беларусі, ухваленую 25 сакавіка 1918 г. Радай Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску, адмаўляла прызнаньне Беларускай ССР як формы беларускай дзяржаўнасьці, абвяшчала "няважнымі" ўсе польска–савецкія дамовы, якія тычыліся Беларусі, і ўрэшце сьцьвердзіла, што "адзіным праўным прадстаўніком беларускага народу й ягонага краю зьяўляецца сяньня Беларуская цэнтральная рада з прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале"[79]. Апошні пункт рэзалюцыі быў вянцом усёй дзейнасьці Астроўскага за гады гітлераўскай акупацыі і адначасна адзіным, які тычыўся сучаснасьці, бо

---

[72] Беларускае навуковае таварыства было заснавана 20 ліпеня 1942 г., але гэтая спроба была няўдалая, і таму 27 чэрвеня 1943 г. БНТ было створана нанова. 19 сакавіка 1944 г. БНТ было арганізавана трэці раз. — *А.С.*

[73] Другі ўсебеларускі кангрэс… С. 20—25.

[74] Ліст прэзыдэнта БЦР да генэральнага камісара ў Менску. 30.5.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 22/534.

[75] Kalush. ... P. 52.

[76] Малецкі Я. Пад знакам Пагоні... С. 170.

[77] Другі ўсебеларускі кангрэс... С. 39.

[78] Рамаnoўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 167. Аўтар ставіць пад пытаньне гэтую лічбу, зьвяртаючы ўвагу на тое, што гарадзкі тэатар у Менску, у якім адбываліся паседжаньні кангрэсу, ня мог зьмясьціць больш за 600 чалавек.

[79] Другі ўсебеларускі кангрэс... С. 67.

палітычная сытуацыя Беларусі пад нямецкай акупацыяй і яе пэрспэктывы не разглядаліся кангрэсам. Аднак гэта не было вынікам кананады фронту. Як сьцьвярджае В. Раманоўскі, уся хада кангрэсу была зрэжысэраваная паліцыяй бясьпекі, а тэксты прамоў і выступаў — зацьверджаныя Готбэргам[80]. Пры такім стане рэчаў рэзалюцыя кангрэсу не магла супярэчыць генэральнай лініі дагэтулешняй усходняй палітыкі Гітлера, які адкідаў магчымасьць разьвязаньня нацыянальнага пытаньня шляхам наданьня аўтаноміі ці незалежнасьці. На гэта асабліва паказвае "пацьвярджэньне" кангрэсам дэклярацыі незалежнасьці Беларусі 1918 г., што не было раўназначна яе ўхваленьню.

Хада кангрэсу, як і адкладзеная да апошніх тыдняў акупацыі і так і не рэалізаваная ў рэчаіснасьці перадача БЦР пэўных сфэраў адміністрацыі, сьведчыць аб тым, што яе статутныя паўнамоцтвы мелі адно дэкляратыўную вартасьць. Ужываная Готбэргам зь сьнежня 1943 г. тактыка замаруджваньня разбудовы апарату БЦР і распачынаньня яе практычнай адміністрацыйнай дзейнасьці была абумоўленая перадусім адсутнасьцю фармальных падставаў для яе дзейнасьці, чаго не зьмяніў факт публікацыі статуту БЦР у афіцыйным выданьні генэральнага камісара пры канцы сакавіка 1944 г. Міністэрства Розэнбэрга, праўда, узяло да ведама намер Готбэрга стварыць гэты орган, аднак так і не зацьвердзіла і не акрэсьліла фармальна яго паўнамоцтваў і сфэраў дзейнасьці[81]. У гэтай сытуацыі Готбэрг не атрымаў ніякіх дырэктываў аб перадачы БЦР адміністрацыйных функцыяў, што абумоўлівала яго дзеяньні ў гэтай справе. Адзінай дырэктывай, якая абавязвала яго да рашучай дзейнасьці, быў загад аб вайсковай мабілізацыі. Варта, аднак, заўважыць, што гэтае заданьне ён мог выканаць, хіба што з трохі іншым вынікам, таксама і без удзелу БЦР. Пра гэта сьведчыць зьдзейсьненая мясцовай адміністрацыяй на яго загад мабілізацыя ў далучаных да генэральнай акругі Беларусі ў лютым 1944 г. паўднёвых раёнах[82], на якія не пашыралася дзейнасьць БЦР[83]. Гэта схіляе да высновы, што як з гледзішча практычнай дзейнасьці, так і з гледзішча фармальных паўнамоцтваў БЦР была прапагандысцкай ініцыятывай.

Асноўнай мэтай Готбэрга было зьнішчэньне савецкай партызанкі, дзейнасьць якой у Беларусі набыла надзвычайны маштаб і вынікі якой балюча адчуваліся Вэрмахтам і нямецкай цывільнай адміністрацыяй. У рэалізацыі гэтай задачы стаўка на БЦР была важным, але не адзіным сродкам. Готбэрг падтрымліваў таксама дзейнасьць расейскай брыгады Камінскага, для якой ён стварыў з частак Наваградзкай і Слонімскай акругаў асобную самакіраваную акругу, на якую не пашыралася дзейнасьць БЦР[84]. Ён таксама імкнуўся выкарыстаць антысавецкія настроі некаторых польскіх партызанскіх аддзелаў, зь якімі ўкладаліся пагадненьні аб спыненьні баявых дзеяньняў ці аб супрацы ў барацьбе з савецкай партызанкай[85]. З гэтай прычыны Готбэрг не дазволіў БЦР праводзіць мабілізацыю ўва ўсёй Лідзкай акрузе, дзе яна фармальна праводзілася польскімі партызанскімі

[80] Раманоўскі В. Тамсама. С. 167.

[81] У афіцыйным "Verordnungsblatt des Reichministers für die besetzten Ostgebiete" не было надрукавана ніякага распараджэньня аб стварэньні БЦР, публікацыя ж яе статуту ў "Amtsblatt des Generalkomissars für Weissruthenien" у прынцыпе магла мець пэўнае значэньне для нямецкай цывільнай адміністрацыі на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі.

[82] У 1944 г. да генэральнай акругі былі далучаныя Лагішынскі, Ленінскі і Целяханскі раёны (увайшлі ў склад Ганцавіцкай акругі). — *А.С.*

[83] Всенародное партизанское движение… С. 250.

[84] Загады Готбэрга ад 23.02 і 30.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 17/321–323.

[85] Skarżyński R. Najnowsza historia polityczna Polski 1939—1945 (recenzja) // Z pola walki. 1961. № 1. S. 181; Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Т. I. Минск, 1949. С. 888—902; Інфармацыя віленскай Дэлегатуры ўраду. 12.02.1944, CA KC PZPR, 202/II–49, k. 10; Пратакол канфэрэнцыі з удзелам Готбэрга. 01.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 31/003.

аддзеламі[86]. Гульня Готбэрга, такім чынам, была шматбаковай, прычым найменш яго пераймалі палітычныя інтарэсы беларускіх, польскіх ці расейскіх нацыяналістычных групаў. На гэта паказвае яго поўная абыякавасьць у справе афіцыйнай мовы ў Беларусі, асабліва тое, што яна была выражана ў сакавіку 1944 г., г.зн. падчас найбольшага флірту зь беларусамі[87].

Такім чынам, прымаючы ініцыятыву Астроўскага ў справе стварэньня БЦР, Готбэрг не кіраваўся адмысловым клопатам пра абуджэньне беларускага нацыяналізму. Значна большую ролю пры гэтым адыгрывалі ягоныя спадзяваньні на тое, што БЦР у пэўнай меры спрычыніцца да забесьпячэньня нямецкіх пазыцыяў у Беларусі ў апошняй фазе акупацыі і падчас адступленьня. Для гэтай мэты, відавочна, павінна была выкарыстоўвацца БКА, аднак яшчэ большыя спадзяваньні ён, напэўна, ускладаў на нэўтралізацыю савецкіх уплываў і псыхалягічнае абяззбройваньне грамадзтва, разгортваючы перад ім міражы нацыянальнай дзяржавы і ўраду, нацыянальнай культуры і дабрабыту. Такую ролю мела выконваць ня толькі ўся дзейнасьць БЦР, але таксама і дзейнасьць нямецкай адміністрацыі. Гэта адкрыта прызнаў у сваёй справаздачы пасьля эвакуацыі камісар гораду Менску Бэкер, сьцьвярджаючы, што такія праведзеныя ў апошнія месяцы акупацыі акцыі, як аднаўленьне разбураных дамоў, спаборніцтва на годнасьць найлепшага садоўніка, конкурс на найпрыгажэйшы дом, разьвіцьцё гарадзкой трамвайнай сеткі, заснаваньне новых могілак, адкрыцьцё музычнай школы, аднаўленьне дзейнасьці тэатру, актывізацыя культурнай дзейнасьці ці вялікія народныя гуляньні на гадавіну "вызваленьня" (22 чэрвеня) ажыцьцяўляліся выключна з палітычных меркаваньняў для нэўтралізацыі эвакуацыйнага псыхозу[88].

Уплыў гэтых прапагандысцкіх акцыяў, да якіх належала таксама і стварэньне БЦР, на настроі грамадзтва ў Беларусі быў, аднак, невялікі, пра што сьведчыць прынцыповае супадзеньне тагачасных нямецкіх, савецкіх і польскіх крыніцаў. У красавіку 1944 г. Готбэрг паведамляў, што шырокія масы насельніцтва займаюць да БЦР "чакальную і абыякавую" пазыцыю і толькі невялікая яго частка вітала БЦР з задавальненьнем[89]. Гэтае меркаваньне пацьвярджаюць пасьляэвакуацыйныя справаздачы акруговых камісараў. Гэтак, камісар Гахман сьцьвярджаў, што ў Глыбоцкай акрузе "не магло быць мовы аб даверы беларускага насельніцтва да БЦР"[90], а Вэрнэр, акруговы камісар у Баранавічах, дзе актыўнасьць БЦР была найбольшай, адзначаў:

> Пазыцыя беларускага насельніцтва цалкам не адпавядала патрабаваньням моманту і прынцыпам супольнай барацьбы з бальшавізмам. Вялікая частка беларусаў была бязьдзейная і абыякавая да агульных падзеяў, найперш з прычыны ўзмацненьня партызанкі. Адно пэўны тоненькі слой інтэлігенцыі быў зацікаўлены ў супрацы зь немцамі і заставаўся пад моцным уплывам ідэі новага парадку ў Эўропе. Гэтая інтэлігенцыя засяродзілася ў арганізацыі БЦР[91].

---

[86] Загад Готбэрга аб стварэньні БКА. 23.02.1944, AGKBZH, александрыйскія мікрафільмы, Т–175, r. 7/2508453; справаздача з сытуацыі ў Наваградзкім ваяводстве ў пэрыяд 1.2.1944—1.4.1944, CA KC PZPR, 202/II–73, k. 47—48. — *Ю.Т.*

У часе вайны польскі ўрад на эміграцыі па–ранейшаму лічыў тэрыторыю Заходняй Беларусі сваім уладаньнем, таму яго агенты карысталіся тэрміналёгіяй да 17 верасьня 1939 г. — *А.С.*

[87] Ліст Готбэрга да Розэнбэрга. 6.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 39/779.

[88] Справаздача Бэкера. 27.7.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 102/226; выступ Бэкера на нарадзе кіраўнікоў аддзелаў гарадзкога камісарыяту ў Менску // Беларуская Газэта. 1944. 1 сакавіка. С. 3.

[89] Справаздача Готбэрга. 18.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 26/211.

[90] Справаздача акруговага камісара ў Глыбокім. 16.03.1944. Тамсама, Т–454, r. 102/306.

[91] Справаздача акруговага камісара ў Баранавічах. 11.8.1944. Тамсама, Т–454, r. 102/110.

Савецкія ж крыніцы сьцьвярджаюць, што стаўленьне насельніцтва да БЦР зусім не было абыякавым і пасіўным, але адлюстроўвала яго масавы супраціў спробам стварэньня антысавецкіх арганізацыяў, якія падтрымлівалі акупацыйны рэжым[92].

Чыньнікам, які аб’ектыўна ўплываў на стаўленьне насельніцтва да БЦР, была наагул рэалістычна ацэненая ваенная і палітычная сытуацыя, у тым ліку вынікі канфэрэнцыяў вялікіх дзяржаваў у Маскве і Тэгеране. На пачатку 1944 г., агулам кажучы, ужо не было сумневу, што набліжаецца канец нямецкай акупацыі, у зьвязку з чым стаўленьне насельніцтва да БЦР фармавалася ў кантэксьце блізкага вяртаньня савецкай улады. Гэтыя настроі трапна ўлавіла выведка Арміі Краёвай у Менску, якая ў студзені 1944 г. паведамляла:

> У сьнежні 1943 г. немцы надалі Беларусі свайго роду абмежаваную аўтаномію. Ад гэтай аўтаноміі ніхто ня радуецца — насупраць, людзі засмучаюцца і баяцца, што яна пацягне за сабой вайсковую мабілізацыю і новыя перасьледы як з боку немцаў, так і з боку бальшавікоў... Сёньня, калі на Смаленшчыне[93], Віцебшчыне, Гомельшчыне ўжо стаяць бальшавікі, калі нямецкія войскі, адступаючы, дашчэнту зьнішчаюць вёскі і гарады, калі эвакуаванае насельніцтва Беларусі ня мае даху над галавой і памірае з голаду, калі, урэшце, самі немцы прадчуваюць сваю паразу — абвяшчэньне імі аўтаноміі Беларусі выглядае прынамсі сьмешна[94].

Пануючыя ў грамадзтве настроі, аднак, ня мелі вялікага ўплыву на вынікі праведзенай БЦР мабілізацыі. Яна была актам прымусу, што ў сьвядомасьці бальшыні прызваных у войска, напэўна, вызваляла іх ад маральна–палітычнай адказнасьці. Зрэшты, у пераважнай частцы генэральнай акругі Беларусі, якая ў міжваенную пару ўваходзіла ў склад польскай дзяржавы, людзі былі прызвычаеныя да службы ў розных арміях — царскай, польскай, савецкай — цяпер іх прызывалі ў беларускую. Ня толькі выказваньні Астроўскага і сучаснай прэсы, якія можна падазраваць у тэндэнцыйнасьці, але і ўжо цытаваныя службовыя паведамленьні Готбэрга і асабліва справаздачы акруговых камісараў увогуле пазытыўна ацэньвалі вынікі мабілізацыйнай кампаніі і адзначалі, што эканамічныя прычыны не дазволілі дасягнуць яшчэ лепшых вынікаў. Акруговы камісар з Наваградку паведамляў, што ў ягонай акрузе распараджэньне аб мабілізацыі было збольшага выкананае, прычым частка прызыўнікоў зьявілася нават з раёнаў, кантраляваных партызанамі[95]. Вынятак складала справаздача акруговага камісара ў Слоніме, які паведамляў, што сярод прызыўнікоў пануе імкненьне ўхіліцца ад мабілізацыі[96]. Можна, аднак, меркаваць, што гэткім парадкам ён намагаўся абгрунтаваць уласнае надзвычай нэгатыўнае стаўленьне да гэтай кампаніі[97].

Аднак ані вынікі мабілізацыі, ані адносна значная колькасьць жаўнераў у БКА не даюць падставаў сьцьвярджаць, што гэта было праявай іх падтрымкі БЦР. Пэўная частка жаўнераў дэзэртавала пад уплывам палітычнай кампаніі савецкай партызанкі. Пэўная частка была звольненая ў выніку памянёнага скарачэньня асабовага складу БКА.

[92] Раманоўскі В. Тамсама, с. 126.

[93] У канцы 1943 г. часткі Чырвонай Арміі ўвайшлі ў Магілёўскую вобласьць. — *А.С.*

[94] Рапарт выведкі АК зь Менску “Савецкая Беларусь на пачатку 1944 г.”, студзень 1944, CA KZ PZPR, 202/III–134, t. 1, k. 65. Варта падкрэсьліць, што ўжо ў студзені 1944 г. грамадзтва Меншчыны правільна зразумела прычыну стварэньня БЦР, зьвязваючы яе з вайсковай мабілізацыяй. Пра тое, якой магутнай была прапагандысцкая кампанія, што спадарожнічала стварэньню БЦР, красамоўна сьведчыць той факт, што нават працаўнік выведкі АК у Менску ацаніў яе стварэньне як наданьне Беларусі аўтаноміі.

[95] Справаздача акруговага камісара ў Наваградку. 22.03.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 27/1410–1425.

[96] Справаздача акруговага камісара ў Слоніме. 22.03.1944, AAN. Тамсама, T–454, r. 27/1381.

[97] За дзяржаўную незалежнасьць… С. 98.

Сапраўдная ж пазыцыя засталых выявілася ў дні наступу Чырвонай Арміі. Як паведамлялі ў цытаваных пасьляэвакуацыйных рапартах акруговыя камісары ў Баранавічах, Наваградку і Глыбокім, у тыя дні разьмешчаныя ў іх акругах часткі БКА пераважна альбо цалкам ня спраўдзілі спадзяваньняў — пакінулі месцы дысьлякацыі і з зброяй і амуніцыяй схаваліся ў лясох. Камісары меркавалі, што гэтыя аддзелы перайшлі да партызанаў. Толькі нязначная іх частка адступіла разам зь немцамі. Іх настроі вызначала бягучая ўлада, якая зьмянялася досыць часта.

У гэтых складаных варунках неадназначнай была таксама гульня Астроўскага. Робячы стаўку на супрацу з трэцім райхам, ён не адмаўляўся і ад іншых саюзаў. У лістападзе 1942 г. Астроўскі прыехаў у Варшаву і правёў перамовы з Уладзіславам Тамкевічам ("Кшыштафам") — кіраўніком усходняга нацыянальнага аддзелу ў Бюро інфармацыі і прапаганды галоўнага камандаваньня Арміі краёвай. Ад імя беларускай арганізацыі "Цэнтар" ён выступіў з прапановай распачаць перамовы з уладамі падпольнай Польшчы, якія маглі б прывесьці да ўзаемнай супрацы. Ужо тады ён прадбачыў паразу гітлераўскай Нямеччыны і бачыў будучыню Беларусі ў фэдэрацыі з Польшчай[98]. Гэтыя прапановы былі праігнараваныя ГК АК, якое тады вяло перамовы зь іншай беларускай падпольнай групай[99]. Аднак у меру пагаршэньня становішча Нямеччыны на Ўсходнім фронце расьлі намаганьні Астроўскага паразумецца з Польшчай. Неўзабаве пасьля прызначэньня на пасаду прэзыдэнта БЦР ён апублікаваў прамову, у якой заклікаў нацыянальныя меншасьці ў Беларусі да супольнай барацьбы[100], што было ўспрынята ГК АК як прапанова беларуска–польскай супрацы[101]. Увесну 1944 г. ён аднавіў перамовы з ГК АК, разьвіваў фэдэралісцкія канцэпцыі[102]. Вартым увагі падаецца той факт, што ўжо тады Астроўскі лічыўся зь непазьбежнасьцю эвакуацыі зь Беларусі і прадбачыў адступленьне частак БКА на польскую тэрыторыю[103].

Гэтая апошняя акалічнасьць паказвае, што Астроўскі, разумеючы непазьбежнасьць хуткай эвакуацыі зь Менску, ведаў, што дзейнасьць БЦР ня можа мець ніякага практычнага значэньня, а таксама што спробы пераняцьця адміністрацыі ці выкарыстаньня непадрыхтаванай і слаба ўзброенай БКА былі ў прынцыпе разьлічаныя на прапагандысцкі эфэкт. Гэтак жа добра ён здаваў сабе справу, што БЦР не была нават марыянэткавым урадам. Аднак гэты орган, асабліва пасьля рэзалюцыяў чэрвеньскага кангрэсу, цалкам яго задавальняў, бо ў ягоным уяўленьні ён даваў яму мандат на ролю легальнага лідэра беларускай нацыі ў вачох новых партнэраў.

У сваёй палітыцы Астроўскі разыгрываў прынамсі дзьве карты: нямецкую — яўна, і польскую — таемна, напэўна, мяркуючы, што другая сусьветная вайна закончыцца прыкладна так, як закончылася першая. Пазыцыя, якую ён займаў у Менску, нават дазваляла яму досыць празрыста фармуляваць прынцыпы сваёй палітычнай тактыкі публічна.

---

[98] Рапарт Тамкевіча ("Кшыштафа") "Размова зь беларускім дэлегатам". 23.11.1942, CA KZ PZPR, 202/II–22, K. 116–117. Астроўскі тады не ўдакладняў сваёй пазыцыі ў складаным тэрытарыяльным пытаньні. Ён толькі заявіў, што "пытаньне таго ці іншага павету ня будзе адыгрываць ролі". Гэта можа значыць, што ў прынцыпе ён бачыў Беларусь у яе этнаграфічных межах, дапускаючы пры гэтым магчымасьць пэўных тэрытарыяльных саступак на карысьць Польшчы.

[99] Маецца на ўвазе беларуская група пад кіраўніцтвам Янкі Станкевіча. — *А.П.*
Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944). С. 464—484 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

[100] Раніца. 1944. 30 студзеня. С. 1.

[101] Miesięczna Informacja Narodowościowa. 20.5.1944, CA KZ PZPR, 202/III–125, k.3.

[102] Туронак Ю. Беларускае пытаньне... С. 464—484 гэтага выданьня. — *Рэд.* У данясеньні ўраду ў Лёндане ад 17.5.1944 камандуючы АК паведамляў: "Астроўскі і Кушаль, не зважаючы на пранямецкую тактыку, апірышча для Беларусі і надалей бачаць у Польшчы". — Параўн.: Armia Krajowa w dokumentach. T. III. Londyn, 1976. S. 448.

[103] Miesięczna Informacja Narodowościowa. 20.5.1944, CA KZ PZPR, 202/III–125, k.3.

> Мы не фантасты, а рэальныя палітыкі, — казаў Астроўскі, — і, маючы 25–гадовы досьвед нацыянальнай трагедыі, добра разумеем, што пры сучасных абставінах беларускай нацыі, ідучы па шляху да зьдзяйсьненьня свайго найвышэйшага ідэалу, павінна шукаць сабе помачы з боку больш магутнага прыязнага суседа. *Палітычная каньюнктура ў сучасны момант* (вылучэньне аўтара. — *Рэд.*) злажылася так, што гэтым апекуном–пратэктарам для беларускага народу ёсьць Нямеччына[104].

Факт, што адначасна Астроўскі вёў таемныя перамовы з ГК АК, падаецца, паказвае, што ён спадзяваўся хуткай зьмены гэтай каньюнктуры. Далейшае разьвіцьцё падзеяў неўзабаве засьведчыла, што абедзьве стаўкі былі памылковыя і ня мелі нічога супольнага з палітычным рэалізмам.

*Пераклад зроблены паводле:*
Studia z dziejów ZSSR i Europy Środkowej. Tom XXI. 1985.

[104] Раніца. 1944. 6 лютага. С. 3.

# Польска–беларускія ўзаеміны падчас другой сусьветнай вайны[1]

Зыходным пунктам у разгляданым пытаньні была польска–савецкая Рыская дамова, укладзеная ў сакавіку 1921 г. Згодна з гэтай дамовай, Беларусь, якая дагэтуль становіла аднародны этнічны і эканамічны арганізм, была падзеленая на дзьве часткі — Усходнюю, дзе ўзьнікла Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка[2], і Заходнюю, далучаную да тэрыторыі польскай дзяржавы як г.зв. паўночна–ўсходнія крэсы. Гэты стан, які азначаў разьдзяленьне аднаго народу, ніколі не прымаўся беларускімі нацыянальнымі групоўкамі, улучна з тымі, якія ў 1919—1920 гадох рабілі стаўку на Польшчу[3], бо яны плянавалі фэдэрацыю ўсёй Беларусі з Польшчай, а не яе падзел. Польскія ж міжваенныя ўрады бачылі ў выніках Рыскай дамовы трывалы тэрытарыяльны здабытак на ўсходзе і пасьлядоўна імкнуліся да асыміляцыі беларускага насельніцтва на паўночна–ўсходніх крэсах. Такім чынам, супярэчнасьць інтарэсаў была відавочнай.

Створаны ў Рызе тэрытарыяльны расклад датрываў да верасьня 1939 г. У гэты час усходнія тэрыторыі польскай дзяржавы былі занятыя Чырвонай Арміяй, а заходнебеларускія землі былі злучаныя з Усходняй Беларусьсю — БССР. Створаны пасьля верасьнёўскай паразы эміграцыйны ўрад генэрала Сікорскага не прызнаваў гэтых тэрытарыяльных зьменаў і, стоячы на пазыцыях Рыскай дамовы, імкнуўся да паўторнага ўлучэньня заходнебеларускіх земляў у Польшчу. Гэтага імкненьня ні ў якай меры не зьмянялі фэдэрацыйныя канцэпцыі генэрала Сікорскага, якія не выходзілі за рыскую мяжу.

Лягічным наступствам такой пазыцыі было вялікае нежаданьне эміграцыйнага ўраду цікавіцца беларускім пытаньнем таксама і ўва ўнутрыдзяржаўнай плашчыні. Нічога, апроч агульнага абяцаньня роўнасьці правоў і абавязкаў, ня ўнесла ў гэтую справу праграмная ўрадавая дэклярацыя, абвешчаная 24 лютага 1942 г. на інаўгурацыйным паседжаньні Нацыянальнай рады. Красамоўнай праявай абяцанай роўнасьці была адсутнасьць беларусаў і ўкраінцаў у складзе Нацыянальнай рады РП[4] як першага, так і другога скліканьня, што Ўладзіслаў Побуг–Маліноўскі ацэньваў як “дзяржаўна–палітычную памылку вялізарнай вагі”.

Згаданая пазыцыя ўраду, раўназначная ігнараваньню беларускага пытаньня, была прынцыпова абавязковай для яго прадстаўніцтваў у краіне: Дэлегатуры ўраду і Галоўнага камандаваньня ЗУБ–АК[5]. Яна ўплывала таксама на фармаваньне пазыцыяў падпольных

[1] Значная частка рэфэрату была падрыхтаваная на падставе працы Ю. Туронка “Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944)”, якая друкуецца ў гэтым томе на стар. 464—484. Ня ўлічаныя там істотныя цьверджаньні дакумэнтуюцца ў падрадковых заўвагах. — *Рэд.*

[2] БССР была абвешчана ў часе савецка–польскае вайны — 30 ліпеня 1920 г. — *А.С.*

[3] У 1919—1920 г. не было акрэсьленых беларускіх палітычных груповак, якія б ставілі на Польшчу. У 1919 г. апанэнтамі А. Луцкевіча, якія ставілі на мэце захоп кіруючых пазыцыяў у структурах БНР, быў створаны міт пра яго палянафільства як старшыні Рады міністраў БНР. Учыніўшы 13 сьнежня 1919 г. пераварот, гэтыя людзі не знайшлі нічога лепшага, як пачаць перамовы аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі з Масквою. У такіх умовах асобныя дзяячы БНР пайшлі на больш цеснае супрацоўніцтва з Польшчаю. Пры гэтым пляны беларуска–польскае фэдэрацыі падзялялі адзінкі. — *А.С.*

[4] Нацыянальная рада (Нацыянальная рада Польскай рэспублікі) — дарадчы орган прэзыдэнта і ўраду Польшчы ў выгнаньні, створаны ў сьнежні 1939 г. Складалася зь некалькіх дзясяткаў радных і фактычна замяшчала парлямэнт. На паседжаньнях Рады абмяркоўваліся асноўныя пытаньні міжнароднай сытуацыі і польскай замежнай палітыкі. У жніўні 1941 г. распушчана, у лістападзе 1942 г. створана паўторна. Дзейнічала да чэрвеня 1945 г. — *А.П.*

[5] Гл. зацем 6 да артыкула “Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944)”. — *А.С.*

палітычных партыяў і вайсковых груповак, асабліва ў зьвязку з запэўненьнямі Сікорскага ў гатоўнасьці саюзьнікаў падтрымаць яго ўсходнюю палітыку. Некаторыя партыі прымалі гэтую пазыцыю безь вялікіх асьцярогаў, іншыя ж здавалі сабе справу зь яе слабасьці і, не пераацэньваючы дыпляматычных высілкаў ураду, імкнуліся да пошуку альтэрнатыўных разьвязаньняў. Дыяпазон поглядаў нацыянальнага падполься на беларускае пытаньне, такім чынам, характарызаваўся значнай дыфэрэнцыяцыяй і часта не супадаў з пазыцыяй ураду з гледзішча ня толькі тактыкі, але і мэтаў. Пры гэтым ён зазнаваў зьмены, галоўным чынам пад уплывам агульнай ваенна–палітычнай сытуацыі.

Пазыцыю ўраду з рознымі асьцярогамі падтрымалі Нацыянальная партыя[6], Партыя працы, Народная партыя “ROCH”[7] і ППС–WRN[8]. Радыкальную пазыцыю ў справе ўсходняй палітыкі пэўны час займала сацыялістычная лявіца (“Польскія сацыялісты”). Пастулюючы перадусім стварэньне Эўрапейскай сацыялістычнай фэдэрацыі на грунце прынцыпу самавызначэньня і роўнасьці ўсіх нацыяў, орган гэтай групоўкі “Barykada Wolności”[9] пісаў у студзені 1942 г.: “У такой сытуацыі мяжа 1939 г. страціць актуальнасьць. Усплывуць патрабаваньні незалежнасьці Беларусі і Ўкраіны, іх поўнай самастойнасьці альбо фэдэрацыі з Польшчай ці Расеяй”. Аднак далейшае разьвіцьцё ваенна–палітычнай сытуацыі ў Эўропе прывяло да рэвізіі гэтай пазыцыі і вяртаньня да канцэпцыі аўтаноміі для нацыянальных меншасьцяў у паваеннай польскай дзяржаве пры маўклівым прыняцьці рыскай мяжы.

Адрозную пазыцыю ў пытаньні ўсходняй палітыкі займалі вайсковыя колы, якія дзейнічалі ў арбіце ЗУБ–АК. Іх вядучыя дзеячы, якія выйшлі галоўным чынам зь легіянэрскіх і “peowiackich”[10] асяродкаў, палітычна былі зьвязаныя зь пілсудчыцка–санацыйным лягерам, зь якім змагаўся ўрад і яго дэлегатура ў краіне. Зыходзячы з крытыкі палажэньняў Рыскай дамовы, якую пазьней паглыбіла нэгатыўнае стаўленьне да польска–савецкага пагадненьня ў ліпені 1941 г., гэтыя колы досыць рана вылучылі тэзу пра неабходнасьць перабудовы палітычна–дзяржаўнай структуры на ўсходзе на падставе мадыфікаванай ранейшай фэдэралісцкай канцэпцыі[11]. Яна прадугледжвала, сярод іншага, стварэньне пад эгідай Польшчы буфэрных беларускай і ўкраінскай дзяржаваў.

Значную дзейнасьць у гэтай сфэры разгарнула створаная ў ліпені 1940 г. з ініцыятывы былога ваяводы Генрыка Юзэўскага падпольная група “Polska Walczy” (“Польшча змагаецца”), якая меркавала, што Польшча зацікаўленая ў стварэньні беларускай дзяржавы з сталіцай у Менску, якая ўваходзіла б у склад сярэднеэўрапейскай канфэдэрацыі альбо была б шчыльна злучаная з Польшчай іншым спосабам. Аднак заразам захоўвалася думка, што Польшча ня можа адмовіцца ад рыскай мяжы. У заходняй частцы падзеленай Беларусі гэтая групоўка дэкляравала ўвядзеньне шырокага самакіраваньня і поўнай раўнапраўнасьці насельніцтва ў палітычнай, культурнай і эканамічнай сфэры, правядзеньне сельскагаспадарчай рэформы, раўнапраўнасьць беларускай мовы ў грамадзкім жыцьці, школьніцтве, а таксама беларусізацыю Праваслаўнай царквы і забесьпячэньне моўных правоў для беларусаў–каталікоў. Гэтая праграма здабыла прыхільнасьць ня толькі многіх падпольных груповак пілсудчыцка–санацыйнай афарбоўкі (Obóz Polski Walczącej/

---

[6] Нацыянальная партыя — *Stronnictwo Narodowe* — польская палітычная партыя, утвораная ў 1928 г. у выніку рэарганізацыі ранейшага Народна–нацыянальнага саюзу. Мела выразна нацыяналістычную ідэалёгію. — *А.П.*

[7] Гл. зацем 13 да артыкула “Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944)”. — *А.С.*

[8] Гл. зацем 16 да артыкула “Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944)”. — *А.С.*

[9] “Barykada Wolności” — нелегальны палітычны штодвухтыднёвік, выдаваны польскімі сацыялістамі на тэрыторыі акупаванай Польшчы ў 1940—1942 г. — *А.П.*

[10] Гл. зацем 23 да артыкула “Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944)”. — *А.С.*

[11] Маецца на ўвазе пашыраная ў канцы 1910 — пачатку 1920–х г. фэдэралісцкая канцэпцыя польскага дзяржаўнага будаўніцтва, якая зьвязвалася перш за ўсё зь імем Юзафа Пілсудзкага. — *А.П.*

Лягер змагарнай Польшчы[12] і Konwent Organizacji Niepodległościowych/Канвэнт незалежніцкіх арганізацыяў)[13], але таксама і часткі сацыялістаў (WRN) і сялянскіх актывістаў (Chłopska Organizacja Wolności "Racławice"/Сялянская Арганізацыя Свабоды "Рацлавіцы"[14].

Яшчэ больш радыкальныя праекты разьвязаньня беларускага пытаньня бараніла падпольная Дэмакратычная партыя[15], вядучыя дзеячы якога — Мечыслаў Міхаловіч і Рамуальд Мілер — даўно былі вядомыя сваімі фэдэралісцкімі перакананьнямі і дзейнасьцю. Пэўна, з гэтых традыцыяў паходзіла канцэпцыя вяртаньня да "мадэрнізаванай ягелонскай думкі"[16], прапанаваная Міхаловічам яшчэ ў трыццатых гадох. Прыхільнікамі гэтых поглядаў падчас вайны былі яго блізкія супрацоўнікі — намесьнік старшыні ДП Ежы Макавецкі і шматгадовы намесьнік дырэктара Інстытуту дасьледаваньня нацыянальнага пытаньня прафэсар Марцэлі Гандэльсман.

Патрабуючы грунтоўнай рэвізіі стаўленьня да беларусаў у кірунку ўзаемнага паразуменьня, даверу і супрацы, Дэмакратычная партыя ўжо ў красавіку 1941 г. выступіла з крытыкай пазыцыі арганізацыі "Польшча змагаецца" ў справе непарушнасьці рыскай мяжы.

> Гэтая пазыцыя, — сьцьвярджаў орган партыі "Myśl Społeczna i Polityczna", — няслушная, якім бы патасам яе не падмацоўвалі. Трэба выразна сказаць сабе, што межы Польскай рэспублікі былі дрэнныя, і ўсходнія, бадай, яшчэ горшыя за заходнія. Яны мелі мізэрную стратэгічную вартасьць, ня мелі геаграфічнага і эканамічнага сэнсу, падзялялі тэрыторыі, на якіх жыло аднапляменнае насельніцтва. Яны былі вынікам нядобрага кампрамісу, які — у вялікай меры ў выніку ўнутранага расколу і неразуменьня дзяржаўных задачаў усім грамадзтвам — мы ўклалі з Расеяй у Рызе ў 1921 г.

Пазыцыя Дэмакратычнай партыі ў беларускім пытаньні зводзілася да двух варыянтаў яго разьвязаньня ў залежнасьці ад вынікаў нямецка–савецкай вайны. Першы зь іх прадугледжваў у выпадку аслабленьня ці заняпаду абедзьвюх дзяржаваў магчымасьць узьнікненьня на ўсходзе самастойных беларускай і ўкраінскай дзяржаў і наладжаньне супольнага жыцьця зь імі на аснове дзяржаўнай фэдэрацыі. У гэтым выпадку ДП выказвалася за адмову ад рыскай мяжы і за адпаведны тэрытарыяльны кампраміс з гэтымі дзяржавамі. У выпадку ж перамогі СССР над Нямеччынай партыя пастулявала заха-

[12] *Obóz Polski Walczącej*/Лягер змагарнай Польшчы (OPW) — польская вайсковая канспірацыйная група, якая аб'ядноўвала былых сяброў даваеннага праўрадавага Лягеру нацыянальнага адзінства ("Озону") і ў вайсковых адносінах падлягала камандаваньню Арміі Краёвай. Дзейнічала ў 1942—1944 гг. — *А.П.*

[13] *Konwent Organizacji Niepodległościowych*/Канвэнт незалежніцкіх арганізацыяў — польская канспірацыйная арганізацыя, створаная ў кастрычніку 1942 г. у выніку адыходу групы дзеячоў зь "Лягеру змагарнай Польшчы". Вайскова падпарадкоўвалася Арміі Краёвай. У 1944 г. злучылася зь "Лягерам змагарнай Польшчы" ў Аб'яднаньне незалежніцкіх арганізацыяў. — *А.П.*

[14] *Chłopska Organizacja Wolności "Racławice"* / Сялянская арганізацыя свабоды "Рацлавіцы" — польская канспірацыйная арганізацыя, заснаваная ў лістападзе 1939 г. Дзейнічала да 1944 г., мела вайсковы аддзел — Польскую ўзброеную арганізацыю "Знак". — *А.П.*

[15] Дэмакратычная партыя — *Stronnictwo Demokratyczne* — польская палітычная партыя, утвораная ў канцы 1930–х гг. на аснове т.зв. дэмакратычных клюбаў. Як да вайны, так і падчас яе выступала супраць нацыяналістычных і таталітарных канцэпцыяў. У 1942 г., сярод іншага, выступіла ініцыяторкай стварэньня Галоўнай рады дапамогі габрэям. Афіцыйна дзейнічала і пасьля вайны, у Польскай Народнай Рэспубліцы, будучы адзінай немарксісцкай партыяй ува Ўсходняй Эўропе. — *А.П.*

[16] Маецца на ўвазе т.зв. "ягелонская ідэя", якая прадугледжвала стварэньне польскай дзяржавы на ўзор той, якая была за часоў панаваньня дынастыі Ягелонаў. Розныя народы ў такой дзяржаве павінны былі жыць разам, цалкам захоўваючы свае нацыянальныя звычаі, мовы і культуры. Злучаць гэтыя народы мусіла толькі дзяржаўнае адзінства. — *А.П.*

ваньне рыскай мяжы разам з разьвязаньнем беларускага і ўкраінскага пытаньня на аснове тэрытарыяльнай аўтаноміі. Такім чынам, праграма ДП была найбольш радыкальная ў дыяпазоне пазыцыяў падпольля.

Варта заўважыць, што Дэмакратычная партыя, нягледзячы на прызнаньне ёй эміграцыйнага ўраду, ня ўдзельнічала ў дзейнасьці Дэлегатуры ўраду ў краіне. Аднак важным полем яе дзейнасьці было Галоўнае камандаваньне ЗУБ–АК, асабліва яго Бюро інфармацыі і прапаганды, што было зьвязана з тым, што Макавецкі займаў пасаду кіраўніка ўплывовага Аддзелу інфармацыі БІП. Макавецкі далучыў да супрацы вядомых экспэртаў у пытаньнях нацыянальнасьцяў з Варшаўскага ўнівэрсытэту і Інстытуту дасьледаваньняў нацыянальнага пытаньня. Кіраўніком падпарадкаванага Макавецкаму сэктару ўсходніх нацыянальнасьцяў стаў Уладзіслаў Тамкевіч, а ягонымі супрацоўнікамі ў беларускіх справах — Зоф'я Дабрынская (“Эва”) і ўкраінскіх — Станіслаў Гербст. Тут зьбіралі і вывучалі матэрыялы з паасобных нацыянальных участкаў і ў форме пэрыядычных рапартаў падавалі іх кіраўніку АК, эміграцыйнаму ўраду і яго дэлегатуры.

Макавецкі імкнуўся да таго, каб увядзеньнем у склад БІПу амаль выключна чальцоў ДП рабіць уплыў на кіраўніцтва Арміі Краёвай у кірунку, набліжаным да палітычнай лініі, вядзёнай гэтай партыяй. Яе канкрэтныя мэты (аўтаномія ці фэдэрацыя) павінна было вызначыць разьвіцьцё ваенна–палітычнай сытуацыі ў Эўропе, якое ў той час было цяжка прадбачыць. Гэтымі канцэпцыямі з часам зацікавіліся кіраўнік АК ген. Стэфан Равэцкі (“Грот”) і кіраўнік штабу ген. Тадэвуш Пэлчынскі (“Гжэгаж”). Дэлегатура ўраду ставілася да іх халодна ці непрыхільна і неаднаразова дасылала ў Лёндан скаргі на Галоўнае камандаваньне АК, абвінавачваючы яго ў “стварэньні дуалізму ўва ўрадавай працы і правакаваньні дэзарыентацыі”. Такім чынам, ува ўсёй структуры падпольля Галоўнае камандаваньне АК было адзінай інстанцыяй, якая выяўляла пэўны інтарэс да пазытыўнага фармаваньня польска–беларускіх стасункаў па заканчэньні вайны.

Іначай рэагавалі на падзеньне польскай дзяржавы ў верасьні 1939 г. беларусы, прычым ня толькі прыхільнікі камуністычнай партыі ці пракамуністычнай лявіцы, але таксама і дзяячы нацыянальных групаў, якія існавалі ў міжваенную пару, ды бальшыня грамадзтва. Улучэньне заходнебеларускіх земляў у БССР для іх азначала перадусім аб'яднаньне краіны і разьвязаньне набалелых грамадзка–эканамічных і культурна–моўных праблемаў, за якое прадстаўнікі гэтай нацыі бясплённа змагаліся ў міжваенную пару.

Аб пазытыўным прыняцьці беларусамі прыходу Чырвонай Арміі сьведчыць ня толькі савецкая гістарыяграфія, але і нямецкія (Пэтэр Шайбэрт), амэрыканскія (Нікалас Вакар) і польскія (Казімеж Падляскі) крыніцы. У гэтай справе асабліва паказальнай была пазыцыя Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі — нацыянальнай арганізацыі, зь якой жорстка змагалася савецкая ўлада. Яе ў студзені 1940 г. наступным чынам выказаў орган БХД “Kryniсa”, які, *notabene*, выходзіў у Вільні ў варунках незалежнай Літвы:

> Верасьнёвы разгром Польшчы даў магчымасьць Савецкаму Саюзу выступіць у ролі абаронцы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад панскага над імі панаваньня і гэткім чынам *выправіць* (вылучана “Krynicaj”. — *Ю.Т.*) несправядлівасьць падзелу Беларусі і Ўкраіны з прад 20–цёх гадоў... Беларусы і ўкраінцы, вялікарусы і казацтва розных тэрыторыяў з запраўдным захапленьнем спаткалі гэты паход і бралі ў ім удзел, бо мэта яго была добра зразумелай: злучэньне беларускіх і ўкраінскіх зямель успрыймалася як гістарычная справядлівасьць і даўно чаканая неабходнасьць (цытата паводле віленскай “Gazety Codziennaj”[17] ад 21 студзеня 1940 г., с. 2).

Памянёная супярэчнасьць палітычных інтарэсаў была асноўным чыньнікам, які абу-

[17] “Gazeta Codzienna” — штодзённая газэта, выдаваная ў Вільні зь лістапада 1939 па чэрвень 1940 г. пры дапамозе літоўскіх уладаў Вільні. Яе рэдактарам быў вядомы польскі пісьменьнік–краёвец Юзаф Мацкевіч, і ў цэлым газэта прапагандавала краёвую ідэю. — *А.П.*

моўліваў фармаваньне польска–беларускіх стасункаў у гады другой сусьветнай вайны.

У першай яе фазе, якая доўжылася ад верасьня 1939 г. да чэрвеня 1941 г., г.зн. у варунках савецкай улады, сытуацыя была неадназначнай. Праводжаныя эканамічныя ператварэньні, у тым ліку найперш парцэляцыя і нацыяналізацыя маёнткаў, білі па інтарэсах буйнай зямельнай уласнасьці, якая знаходзілася пераважна ў руках палякаў. Выйгравала ад іх беларускае малазямельнае і сярэднезямельнае сялянства. Адначасна польская мова была скасаваная як афіцыйная, замест яе былі ўведзеныя беларуская і расейская мовы. У выніку грамадзкія патрэбы беларускага насельніцтва задавальняліся больш, чым польскага насельніцтва, якое апынулася ў ролі нацыянальнай меншасьці. Выпадае заўважыць, што правы гэтай меншасьці на адукацыю на роднай мове паважаліся. Знайшлося таксама нямала прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі — настаўнікаў, літаратараў, навуковых супрацоўнікаў і іншых, якія ўхвалялі новую ўладу, праявай чаго былі іх досыць шматлікія публікацыі на бачынах “Prawdy Wileńskiej”[18].

Пры такім стане рэчаў арганізацыя польскага руху супраціву ня мела сур’ёзных пэрспэктываў. Першыя структуры ЗУБ, якія паўстаюць у Вільні ў 1940 г., былі ўдала ліквідаваныя ўладамі, а ў рэгіёнах — на заходнебеларускай тэрыторыі — увогуле не разгарнулі дзейнасьці. Паводле аўтараў некаторых польскіх публікацыяў, да гэтага спрычыняліся даносы беларусаў на дзяячоў ЗУБ. Мяркую, што гэтае цьверджаньне праўдзівае, аднак недастатковае для разуменьня ўсёй сытуацыі. Як сьведчыць кс. Казімеж Кухарскі — шэры кардынал тагачаснага ЗУБ у Вільні, — савецкія ўлады мелі шматлікіх даносчыкаў таксама і спаміж палякаў[19]. Людзкая слабасьць і подласьць, такім чынам, мела міжнародны вымер, і я ня думаю, што прыпісваньне гэтага выключна беларусам служыла добрай справе.

Вясной 1941 г. адбыліся падзеі, якія паўплывалі на агульнае абвастрэньне сытуацыі. Па–першае, узмацнілася пераважна прымусовая калектывізацыя сельскай гаспадаркі, якая зьнівэлявала добрыя пачуцьці сялянства да праведзенай увосень 1939 г. аграрнай рэформы, і, па–другое, пачаліся масавыя дэпартацыі як польскага, так і беларускага насельніцтва. У атмасфэры тэрору і небясьпекі для жыцьця ў грамадзтве расло чаканьне зьмены сытуацыі ў зьвязку з магчымай нямецка–савецкай вайной.

Перад гэтай вайной, вясной 1941 г., абодва бакі зрабілі спробу ўсталяваць кантакт і дамовіцца аб супрацы. Кс. Казімеж Кухарскі, выступаючы па даручэньні камандзіра ЗУБ у Вільні, наступным чынам выказаў польскую пазыцыю ў размове з прадстаўніком беларусаў:

> Я сфармуляваў нашую пазыцыю ясна і сумленна, што мы хочам лепшага паразуменьня ў цяперашняй працы, але ў якасьці першай умовы гэтай супрацы мы хочам ад іх (беларусаў. — *Ю.Т.*) яснай дэкларацыі, што сваю будучыню яны на 100% бачаць толькі ў супрацы з польскім народам і з апорай на польскую дзяржаву... Нам трэба галоўным чынам тое, каб яны ўжо цяпер выбралі паміж намі і немцамі, паміж нашай славянскай зычлівасьцю[20] і абяцанкамі немцаў[21].

Аднак, як піша далей кс. Кухарскі, гэтая прапанова была адкінутая беларусамі, якія разьлічвалі на тое, “што нават самастойнае дзяржаўнае існаваньне цягам дзясятка гадоў дае такую выгаду ў сфэры этнічнай кансалідацыі і культурнага разьвіцьця, што цяпер

[18] “Prawda Wileńska” — газэта, якая выходзіла ў Вільні ў 1940—1941 і ў 1944—1947 г. Была афіцыйным органам Віленскага гарадзкога камітэту КП(б) Літвы. — *А.П.*

[19] Ks. K. Kucharski T.J. Konspiracyjny ruch niepodległościowy w Wilnie w okresie od września 1939 r. do 25 maja 1941 r. // Archiwium Studium Polski Podziemnej w Londynie.

[20] Згадка пра польскую “славянскую зычлівасьць” магла гучаць для беларусаў, якія яшчэ захоўвалі сьвежыя ўспаміны пра палітыку міжваеннай польскай дзяржавы ў дачыненьні да нацыянальных меншасьцяў, прынамсі двухсэнсоўна. — *А.П.*

[21] Ks. K. Kucharski T.J. Konspiracyjny ruch...

яны хочуць рабіць стаўку на немцаў, якія запэўніваюць іх у рэалізацыі гэтай магчымасьці".

Але гэта была не адзіная беларуская пазыцыя. У той самы час д–р Ян Станкевіч як прадстаўнік іншай групоўкі — Партыі беларускіх нацыяналістаў — спрабаваў усталяваць кантакт з Галоўным камандаваньнем ЗУБ у Варшаве. Аднак і ў гэтым выпадку да перамоваў не дайшло. Гэта было вынікам як недаверу да Станкевіча і групоўкі, якую ён прадстаўляў, так і нясхільнасьцю да дыскусіі ў справе будучыні заходнебеларускіх земляў, якія ўважаліся за частку тэрыторыі польскай дзяржавы. Галоўнай прычынай, зь якой спробы паразуменьня ня мелі посьпеху, былі, такім чынам, цалкам супрацьлеглыя палітычныя мэты, якія абодва бакі плянавалі рэалізаваць у варунках меркаванай нямецкай акупацыі.

Досьвед польскага насельніцтва ў Заходняй Беларусі ў 1939—1941 гадох пасьля пачатку нямецкай акупацыі выклікаў моцную антысавецкую і антыбеларускую рэакцыю. Яе прынцыповым зьместам было імкненьне стварыць у варунках акупацыі фактычны стан, які спрыяў бы ўлучэньню заходнебеларускіх земляў наноў у Польшчу. Гэтая велічная мэта ў вачох польскіх дзяячоў апраўдвала шмат сродкаў, скіраваных на пашырэньне ўласнай сфэры ўплыву і выдаленьне з палітычнай гульні беларусаў, якіх, не зважаючы на іхную савецкую ці незалежніцкую арыентацыю, не бяз рацыі разглядалі як перашкоду на шляху да аднаўленьня рыскай мяжы.

Імкненьне да рэалізацыі гэтых палітычных мэтаў абумовіла прыхільны прыём нямецкіх войскаў польскім насельніцтвам, а таксама — з увагі на малалікасьць і расколатасьць беларускай інтэлігенцыі — актыўны ўдзел у стварэньні новай адміністрацыі і дапаможнай паліцыі. Як сьведчаць нямецкія паліцыйныя рапарты, працэс пераняцьця адміністрацыі палякамі адбываўся з згоды Вэрмахту і неўзабаве прывёў да займаньня імі амаль усіх ключавых пасадаў у гарадзкіх і раённых управах Заходняй Беларусі. Была створаная таксама мясцовая дапаможная паліцыя, узначаленая пераважна палякамі[22].

Сфармаваны на пачатку акупацыі адміністрацыйна–паліцыйны апарат быў важным легальным полем дзеяньня для польскіх падпольных структураў. Гэта гаварыла пра непазьбежнасьць змаганьня зь беларускім нацыяналізмам.

Першай яго праявай былі намаганьні былых земляўласьнікаў вярнуць свае маёнткі і інвэнтар. У выніку гэтых намаганьняў, падтрыманых нямецкімі вайсковымі ўладамі і мясцовай адміністрацыяй, летам 1941 г. ім удалося вярнуць шмат маёнткаў. З прычыны адсутнасьці дырэктываў, якія рэгулявалі права ўласнасьці, былыя ўладальнікі фармальна станавіліся адміністратарамі маёнткаў, што з грамадзкага гледзішча нязначна мяняла іх папярэдні статус. Пра ходу і вынікі гэтай акцыі выведка ЗУБ увосень 1941 г. паведамляла наступнае:

> На беларускія тэрыторыі часта вяртаюцца земляўласьнікі пад аховай нямецкай жандармэрыі. Гэта выклікае канфлікты зь сялянамі, у якіх адбіраюць улучаныя ў калгасы фальваркавыя землі і рознае забранае з двара рухомае майно. У ваколіцах Ліды на гэтым фоне былі закалоты, жандары застрэлілі больш за дзясятак сялян. Немцы ствараюць бачнасьць, што "вяртаюць Польшчу" і такім спосабам ствараюць антаганізм паміж беларусамі і палякамі.

Яшчэ адным сродкам дзейнасьці мясцовых палякаў былі іх намаганьні нэўтралізаваць актыўнейшых беларусаў, якія разглядаліся як палітычныя праціўнікі. Гэтыя намаганьні ўзмацняліся настроямі помсты за падзеі 1939—1941 гадоў, якія абумовілі шматлікія выпадкі зьвядзеньня асабістых рахункаў. На пачатку акупацыі гэта выклікала даносы палякаў на беларусаў у зьвязку зь іх сапраўдным ці ўяўным бальшавізмам[23]. Паводле беларускіх крыніцаў, гэтыя выпадкі былі пашыраныя на вялікай тэрыторыі і

[22] Ereignismeldung UdSSR ад 09.07.1941, Archiwum Akt Nowych w Warszawie, mf. aleksandryjskie, T–175, rolka 233; Meldungen aus den besetzten Ostgebieten ад 01.05.1942, тамсама, rolka 235.

[23] Ereignismeldung UdSSR ад 13 VII 1941 г. і 28 IX 1941 г., тамсама, rolka 233.

летам 1941 г. прывялі да шматлікіх ахвяраў, перадусім сярод інтэлігенцыі[24]. Гэта стварала атмасфэру польскага засільля і антыбеларускага тэрору.

Гэтыя трагічныя падзеі апынуліся на парадку дня канфэрэнцыі Галоўнага камандаваньня АК і падпольнай Партыі беларускіх нацыяналістаў, якая адбылася ў ліпені 1942 г. у Менску. У адказ на падазрэньне беларускага боку, што масавыя даносы заахвочваліся польскімі ўладамі ў Лёндане і іх прадстаўніцтвамі ў краіне, прадстаўніца ГК АК “Эва” (Зоф’я Дабрынская) заявіла:

> Я адказала на гэта, што даю слова гонару, што гэта ня толькі ня акцыя цэнтру, але, наадварот, такія ўчынкі ёсьць здрадай Польшчы, і законныя польскія ўлады пакараюць такіх людзей за дзяржаўную здраду... Я папрасіла пералік мясьцінаў, у якіх такія выпадкі мелі месца, а таксама пайменны сьпіс палякаў, якія служаць немцам[25].

Такім чынам, асуджэньне гэтых дзеяньняў прадстаўніком ГК АК было адназначным.

Пэўнае супакаеньне настрояў адбылося ўвосень 1941 г., пасьля ўвядзеньня ў Беларусі акупацыйнай цывільнай адміністрацыі і абвяшчэньня афіцыйнай беларусізацыі краіны. Праўда, гэта не зрабіла вялікага ўплыву на пераважна польскі характар мясцовай адміністрацыі, аднак прывяло да больш уважлівага разгляду даносаў, прычым іх аўтараў нярэдка прыцягвалі да адказнасьці. Радыкальная зьмена сытуацыі адбылася толькі ў траўні 1942 г., калі ў выніку шчыльнейшай супрацы польскага падполья з савецкай партызанкай Галоўная ўправа бясьпекі райху распачала г.зв. “Polenaktion”, у рамках якой пачалося выдаленьне палякаў з адміністрацыі і паліцыі, а таксама расстрэлы і высылка на работы ў Нямеччыну польскай інтэлігенцыі, якая часта ўвогуле ня мела дачыненьня да барацьбы. Да гэтай антыпольскай кампаніі акупацыйныя ўлады далучалі беларусаў, надаючы ёй характар помсты. Ува ўмовах антыпольскіх рэпрэсіяў у канцы 1942 г. у Беларусі пачалі ствараюцца партызанскія аддзелы Арміі Краёвай, якія часта супрацоўнічалі з савецкім рухам супраціву.

Чарговая зьмена сытуацыі адбылася ў сярэдзіне 1943 г. Неўзабаве пасьля разрыву савецкім урадам дыпляматычных стасункаў з польскім урадам у Лёндане (красавік 1943 г.) зьмянілася таксама і стаўленьне савецкай партызанкі да АК, якую цяпер называлі “прафашысцкай арганізацыяй Сікорскага” і пачалі раззбройваць. Паміж абедзьвюма партызанкамі пачаліся крывавыя сутыкненьні, якія часта заканчваліся не на карысьць акоўскіх аддзелаў з прычыны іх недастатковага ўзбраеньня.

Імкнучыся да актывізацыі мясцовых сілаў у змаганьні з савецкай партызанкай, у канцы 1943 г. акупацыйныя ўлады пачалі разбудову беларускіх паліцыйна–вайсковых фармаваньняў ды адначасна палічылі мэтазгодным спыніць у Беларусі антыпольскі курс, які праводзіўся ад сярэдзіны 1942 г., і выкарыстоўваць аддзелы АК. Гэтыя разьлікі грунтаваліся на меркаваньні, што пры напятых стасунках і збройных канфліктах паміж польскай і савецкай партызанкай і з улікам слабога ўзбраеньня акоўскіх аддзелаў яны ня змогуць адмовіцца ад прапановы немцаў даўзброіць іх.

У прынцыпе, шэраг аддзелаў АК з гэтай прапановы скарысталі. Праўда, укладаньня фармальнай дамовы аб ваеннай супрацы не адбылося, аднак гэта не перашкаджала дамоўленасьці аб узаемным ненападзе і пастаўках немцамі зброі акоўскім аддзелам[26]. Розгалас атрымалі дзеяньні двух аддзелаў у Наваградзкай акрузе АК — “Леха” (Юзафа Сьвіды) і “Гуры” (Адольфа Пільха), асуджаныя польскім урадам у Лёндане і Галоўным камандаваньнем АК. Аднак, як заявіў нядаўна Юзаф Сьвіда, укладзеная ім дамова зь немцамі была ўхваленая камандзірам акругі Я. Праўдзіцам–Шляскім, а пастаўленая зброя

[24] Byelorussian Review. Munich, 1956. № 3. P. 16; Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. С. 49—52.
[25] Справаздача “Эвы” з паездкі ў Менск ад пачатку жніўня 1942, Centr. Arch. KC PZPR, 203/VII–45, k. 20.
[26] Erdman J. Droga do Ostrej Bramy. Londyn, 1984. S. 249—251.

прызначалася ня толькі для аддзелу “Леха”, але і для іншых аддзелаў Наваградзкай акругі АК[27].

Дамоўленасьці зь немцамі і асабліва так патрэбныя пастаўкі зброі спрыялі ўзмацненьню пазыцыі АК на заходнебеларускіх землях. Як паведамляла акоўская выведка:

> На мяжы 1943/44 г. склалася сытуацыя, у якой шэраг паветаў Наваградчыны[28] цалкам кантралюецца палякамі. Немцы, зважаючы на антыбальшавіцкую дзейнасьць польскага войска, выкарысталі гэта для мэтаў сваёй бясьпекі. Яны не чапаюць польскіх аддзелаў, у шматлікіх выпадках нават прапануюць ім дапамогу. Гэта, ясная рэч, выклікае замяшаньне ў палітычных поглядах польскага грамадзтва...[29].

Асаблівая сытуацыя з гэтага гледзішча склалася ў Лідзкай акрузе. Вось іншае акоўскае паведамленьне:

> Шчучынскі павет уваходзіць у склад Лідзкага гебітскамісарыяту... Гэта кавалак Польшчы, на якім мясцовыя нямецкія ўлады выяўляюць максымум разуменьня і талерантнасьці да арганізаванага і ўзброенага польскага грамадзтва. Шчучынскі павет нагадвае землі Бабруйску і Жлобіна часоў Доўбара–Мусьніцкага[30]. Нямецкая ўлада абмяжоўваецца мястэчкамі, улада чырвоных — другім бокам Нёмна. Польскія аддзелы праводзяць рэгулярны прызыў у войска некалькіх гадоў нараджэньня — солтысы ўручаюць фармальныя іменныя позвы... У нядзелі і сьвяты ў цэнтры вёскі — палявая імша з казаньню. Млыны, дзяржаўныя маёнткі і вёскі плацяць даніну натурай і грашыма. Варшавякі з УКБ (Ударны Кадравы Батальён. — *Ю.Т.*) даводзяць, што ўва ўсёй Польшчы няма гэтак спрыяльных варункаў для стварэньня падпольнай арміі, як у Шчучынскім павеце. Відавочна, гэта абумоўлена ня толькі прыхільнай пазыцыяй насельніцтва, але і талерантнасьцю з боку немцаў. Немцы адпусьцілі ў Шчучыне 9 хлопцаў з турмы, кажучы ім, што яны атрымаюць свабоду, калі далучацца да “белых”[31].

Напярэдадні спадзяванага адступленьня немцаў дзейнасьць акоўскіх аддзелаў у значнай ступені была скіраваная супраць беларускіх дзеячоў і інстытуцыяў, якія разглядаліся як перашкода для адбудовы польскай дзяржаўнасьці. З ростам сілаў АК ад восені 1943 г. узмацнілася вынішчэньне беларусаў, што матывавалася іх супрацай з савецкай партызанкай. Антыбеларускі тэрор дасягнуў найбольшых памераў у Лідзкай акрузе. Паводле беларускіх крыніцаў, да канца акупацыі ад рук АК там загінула каля 1200 беларусаў[32]. Праўдзіц–Шляскі сьцьвярджае, што выканаўцы яго штабу за той час выканалі каля 300 выракаў сьмерці “прадажным здраднікам”, апроч гэтага, у рукі гестапа і тайнай палявой жандармэрыі выдаваліся “чальцы камуністычнай арганізацыі”, у выніку чаго былі арыштаваныя 80 чалавек, зь якіх частку расстралялі, частку вывезьлі[33]. Можна дапусьціць, што беларускія ацэнкі і зьвесткі Праўдзіца–Шляскага не былі дакладныя, аднак іх дастаткова для цьверджаньня, што колькасьць забітых сягае сотняў чалавек.

З гледзішча памераў антыбеларускай тэрарыстычнай кампаніі Лідзкая акруга займа-

[27] Świda J. Wyjaśnienie dotyczące okresu 1943—1944 r. // Zeszyty Historyczne. Paryż, 1985. № 73, S. 76—77.

[28] Наўвеце маецца Наваградзкае ваяводзтва. — *А.С.*

[29] Sprawozdanie sytuacyjne z woj. nowogródzkiego w okresie 1.2 — 1.4.1944, Centr. Arch. KC PZPR, 202/II–73, k. 47–48.

[30] У студзені–лютым 1918 г. польскі корпус расейскай арміі пад камандаваньнем ген. Юзафа Доўбара–Мусьніцкага, дысьлякаваны ў раёне Рагачоў—Жлобін—Бабруйск, пры матэрыяльнай падтрымцы Антанты ўчыніў антысавецкі мяцеж і захапіў шэраг гарадоў і мястэчак. — *А.С.*

[31] Sprawozdanie sytuacyjne z woj. nowogródzkiego w okresie 1.2 — 1.4.1944, Centr. Arch. KC PZPR, 202/II–73, k. 47–48.

[32] Малецкі Я. Тамсама, с. 51.

[33] Prawdzic–Szlaski J. Nowogródczyzna w walce 1940—1945. Londyn, 1976. S. 66, 93.

ла досыць выключную пазыцыю ў Беларусі. У іншых яе акругах, кантраляваных у большай ступені беларусамі, гэтыя акцыі былі хутчэй спарадычныя. На шчасьце, гэтыя акцыі былі толькі мініятурнай копіяй крывавых падзеяў на польска–ўкраінскіх тэрыторыях, аднак яны выклікалі паглыбленьне ўзаемнай варожасьці. У выніку сымпатыі пераважнай часткі беларусаў ваганіся паміж Масквой і Бэрлінам, а не схіляліся ў бок Польшчы.

У гэтай атмасфэры шанцы дасягнуць паразуменьня ўяўляліся амаль безнадзейнымі. Таму заслугоўвае ўвагі ініцыятыва падпольнай групоўкі — Партыі беларускіх нацыяналістаў, ператворанай у 1943 г. у Беларускае нацыянальна–дэмакратычнае аб’яднаньне, — распачаць з прадстаўнікамі Галоўнага камандаваньня АК перамовы, якія мелі на мэце пераадоленьне палітычных супярэчнасьцяў і стварэньне супольнай плятформы для дзеяньняў. У выніку шматмесячных намаганьняў кіраўніцтва ПБН, перадусім праф. Вацлава Іваноўскага і д–ра Яна Станкевіча, гэтыя перамовы пачаліся ў ліпені 1942 г. у Менску, пасьля чаго былі працягнутыя ў студзені 1943 г. у Варшаве і ў кастрычніку 1943 г. у Вільні.

Прадстаўнікі ПБН спрабавалі зацікавіць кіраўніцтва польскага падпольля і польскі ўрад у Лёндане справай стварэньня беларускай дзяржавы, якая ў прынцыпе мела ахопліваць усю беларускую этнічную тэрыторыю, то бок з заходняй мяжой уздоўж лініі Керзона. Гэтая дзяржава пасьля вайны мела быць злучаная з Польшчай дзяржаўнай уніяй, прадстаўляць яе навонкі мела супольнае міністэрства замежных справаў. З прычыны немагчымасьці самастойна дзейнічаць на міжнароднай арэне праект ПБН прадугледжваў, што падчас вайны беларускую справу ў Вялікабрытаніі будзе прадстаўляць польскі ўрад у Лёндане. Такім чынам, згодна з праектам ПБН галоўным архітэктарам новай беларускай дзяржавы мела быць Польшча. Інтарэсы ж Польшчы бачыліся ў стварэньні беларускага буфэру, які б аддзяляў яе ад Расеі, што пасьля далучэньня да справы Украіны стварыла б пэрспэктывы цалкам новай палітычнай сыстэмы ўва Ўсходняй Эўропе.

Уся гэтая далёкасяжная ідэя была ў сваіх галоўных рысах вяртаньнем да фэдэралісцкіх канцэпцыяў 1919—1920 гадоў і паказвала, як моцна гэтая канцэпцыя ўкаранілася ў сьвядомасьці Іваноўскага і беларускіх палітыкаў, якія зь ім супрацоўнічалі. Аднак яны недаацэньвалі фармальна–юрыдычных аспэктаў Рыскай дамовы, якая вызначала пазыцыю Галоўнага камандаваньня АК і Дэлегатуры ўраду. Таму падчас перамоў з ПБН польскі бок быў гатовы абяцаць беларусам шырэйшыя правы ў адміністрацыі і эканамічным жыцьці, павагу да іх моўных патрэбаў і г.д., аднак гэтыя гарантыі мелі датычыць іх толькі як нацыянальнай меншасьці ў паваеннай польскай дзяржаве з даверасьнёўскай мяжой на ўсходзе.

Варта заўважыць, што польска–беларускія перамовы адбываліся ў розных ваенных варунках — у часе, калі нямецкія войскі рваліся да Волгі і Каўказу, у момант іх сталінградзкай паразы і адступленьня. Яны таксама праходзілі ў розных для польскага боку палітычных варунках — г.зн. падчас саюзу з СССР і пасьля разрыву стасункаў. Аднак у ніводнай з гэтых сытуацыяў не было магчымасьці дасягнуць паразуменьня, бо беларусы не маглі прыняць пэрспэктывы рыскай мяжы і новага падзелу іх краіны, а палякі — фэдэралісцкай канцэпцыі спачатку з прычыны дачыненьняў з СССР, а пазьней — з прычыны яе нерэальнасьці. Такім чынам, значэньне Польшчы як альтэрнатыўнага чыньніка ў палітычных разьліках беларускіх нацыянальных групаў меншала. Нават у апошняй фазе акупацыі стаўка на Нямеччыну падавалася ім больш карыснай — яна прынамсі стварала гістарычныя аргумэнты ў выглядзе створанай дзяржавы, войска і іншых нацыянальных інстытутаў, якія, нягледзячы на іх прапагандысцкі характар, стварылі культываваны да сёньня нацыянальны міт.

Польска–беларускія перамовы ўсё ж не былі цалкам бясплённымі. Хоць яны і не прывялі да ўзгадненьня палітычных пазыцыяў і ўзаемнай супрацы, але яны стрымлівалі памеры злачынстваў, якія ў Беларусі былі значна меншыя, чым на суседніх землях.

*Пераклад з польскай зроблены паводле:* Colloquium Narodów. Materiały z Sympozjum “Litwini, Białorusini, Ukraińcy, Polacy — przesłanki pojednania”. Lódź, 1987.

# Беларусь
# пад нямецкай акупацыяй

## Уступ

Прадметам нашага дасьледаваньня ёсьць сытуацыя ў Беларусі падчас гітлераўскай акупацыі (1941—1944). Паводле некаторых аспэктаў, яна не адрозьнівалася ад сытуацыі ў іншых акупаваных краінах Эўропы. Гэта адносіцца галоўным чынам да нацысцкіх забойстваў па ідэалягічных матывах, г.зн. зьнішчэньня габрэяў і палітычных працўнікаў гітлерызму. І гаспадарчыя мэты акупантаў, у прынцыпе, не мяняліся: акупанты імкнуліся паставіць людзкі і эканамічны патэнцыялю краіны на службу трэцяму райху, хоць трэба адзначыць, што ў Беларусі такая эксплюатацыя часта пераходзіла ў адкрытае рабаваньне.

Тым ня менш шмат у якіх адносінах існавалі адрозьненьні, прычым вельмі істотныя. Па–першае Беларусь, гэтак жа, як і іншыя землі Савецкага Саюзу, была часткаю дзяржавы, якую Нямеччына і яе саюзьнікі здолелі заняць толькі часткова, таму на яе тэрыторыі не магло ажыцьцявіцца *ius debellatio* (права пераможцы) з усімі наступствамі. Можна ўзяць за прыклад сытуацыю ў двух рэгіёнах — Сувалкіі і Беластоцкай акрузе. Першая як тэрыторыя цалкам занятай Польшчы ўвайшла ў склад райху, другая як частка абшару СССР фармальна не была ўключана ў яго, хаця такія пляны існавалі. Па–другое, Беларусь трапіла пад нямецкую акупацыю не як самастойная дзяржава, а як складовая частка шматнацыянальнай дзяржавы — СССР. Трывалых традыцыяў дзяржаўнай незалежнасьці яна ня мела. З гэтага пункту гледжаньня яе лёс можна параўнаць зь лёсам Украіны, аднак правесьці такую самую паралель з рэспублікамі Прыбалтыкі было б ужо нельга: у часе паміж першай і другой сусьветнымі войнамі яны заставаліся сувэрэннымі дзяржавамі. І, нарэшце, па–трэцяе: восеньню 1939 г., г.зн. за 20 месяцаў перад нападам Нямеччыны на Савецкі Саюз, насельніцтва і тэрыторыя Беларускай ССР павялічыліся ледзьве не ўдвая: у склад БССР увайшла частка земляў міжваеннай Польшчы. За гэты кароткі пэрыяд тут была праведзена адміністрацыйная ўніфікацыя, але ў сацыяльна–гаспадарчай структуры і ў людзкой сьвядомасьці засталіся вельмі глыбокія, прынцыповыя адрозьненьні паміж Беларусьсю Заходняй і Ўсходняй.

Гэта яскрава выявілася ў час акупацыі: паабапал былой мяжы панавалі розныя настроі і паводзіны насельніцтва і палітычных актораў, якія так ці іначай знаходзіліся пад уплывам трох вызначальных сілаў:

— барацьба, якую прыхільнікі савецкай улады вялі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі супраць гітлераўскіх захопнікаў. Яе мэтаю было ўзнаўленьне ранейшага палітычнага ладу і дзяржаўных межаў, якія ўсталяваліся да 22 чэрвеня 1941 г. Галоўнай дзейнай сілай у гэтым працэсе стаў савецкі партызанскі рух — неўзабаве ён ператварыўся ў важны фактар акупацыйнай гісторыі Беларусі і вельмі істотна ўплываў на функцыянаваньне акупацыйнага рэжыму. Так склалася зь дзьвюх прычынаў. Па–першае, партызанскі рух быў інтэгральнай, плянавай часткай абарончай стратэгіі СССР, баявым выканаўчым органам савецкай улады і менавіта таму дасягнуў такога высокага ўзроўню арганізацыйнага і матэрыяльна–тэхнічнага забесьпячэньня. А па–другое, у Беларусі партызаншчына перарасла ў масавы рух супраціву;

— імкненьне разнастайных беларускіх нацыянальных групаў да стварэньня самастойнай беларускай дзяржавы. Яны вагаліся ў сваёй дзейнасьці ад беспасярэдняга супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі да арыентацыі на заходніх альянтаў. Аднак, нягледзячы на розныя падыходы, ніводная з гэтых групаў не арганізавала ўзброенага антынямецкага супраціву. Акупацыйныя ўмовы яны імкнуліся выкарыстаць дзеля нацыянальнай актывізацыі грамадзтва, арганізацыі беларускіх узброеных сілаў і прадстаўнічых органаў (пікам дасягненьняў у гэтым кірунку стала Беларуская цэнтральная рада, створаная пад самы канец акупацыі). З нацыянальным рухам рознымі мэтадамі вяло барацьбу савецкае падпольле, а да канца 1943 г. — яшчэ і эсэсаўска–паліцыйны апарат. Затое цывільная акупацыйная адміністрацыя падтрымлівала гэты рух — яна бачыла ў ім пэрспэктыўны сродак барацьбы супраць савецкіх партызанаў;

— барацьба польскага падпольля пад кіраўніцтвам ураду генэрала Сікорскага за аднаўленьне польскай дзяржавы ў тэрытарыяльных межах, якія існавалі да верасьня 1939 г. Але гэтая барацьба вялася на спрэчных землях, на якія аднолькава прэтэндаваў як польскі, так і савецкі ўрад. Сытуацыя атрымлівалася вельмі драматычная. У гэтых жа пытаньнях выявілася супярэчнасьць інтарэсаў польскага падпольля і беларускіх нацыянальных колаў. Пры такім стане рэчаў польскае падпольле, імкнучыся да зьдзяйсьненьня сваіх мэтаў, вымушана было манэўраваць: ад канкрэтных дачыненьняў зь немцамі на пачатку акупацыі да супрацоўніцтва з савецкім падпольлем, затым, пасьля разрыву дачыненьняў паміж савецкім і польскім урадамі ў красавіку 1943 г., настала палоса ўзаемнай варожасьці, якую немцы пастараліся выкарыстаць дзеля ўмацаваньня ўласнай бясьпекі.

Канцэпцыі і дзеяньні палітычных актораў акупаванай Беларусі знаходзіліся ў глыбокай узаемнай супярэчнасьці, і тактычныя пагадненьні паміж імі на тэрыторыі акупаванай Беларусі былі зьяваю даволі рэдкай. Аднак трэба заўважыць, што гэты шматбаковы фронт не абмяжоўваўся толькі адзначанымі нацыянальнымі крытэрамі: зь цягам часу да савецкага партызанскага руху ўсё часьцей пачалі далучацца ня толькі беларусы, але і палякі. Многа палякаў служыла ў беларускай дапаможнай паліцыі, а беларусы, у сваю чаргу, складалі немалы працэнт сярод жаўнераў Арміі Краёвай, асабліва на Віленшчыне і Наваградчыне. Такія паводзіны тлумачыліся ня толькі ідэалягічнымі матывамі, але і іншымі акалічнасьцямі, у тым ліку і прымусовым узьдзеяньнем. Нягледзячы на гэта, тагачасная сытуацыя вельмі нагадвала грамадзянскую вайну і ня ўкладвалася ў рамкі клясычнага ўзору “акупанты — акупаваныя”.

Непасьлядоўныя дзеяньні нямецкіх акупацыйных уладаў, асабліва ў тым, што датычыла карных мэтадаў, яшчэ больш ускладнялі заблытанае становішча. Вынішчэньне мірнага насельніцтва, паленьне вёсак і г.д. у ходзе карных апэрацыяў, якія ажыцьцяўлялі СС і паліцыя, выклікалі процідзеяньне генэральнага камісара Вільгельма Кубэ — ён зрабіў стаўку на палітычнае вырашэньне канфліктаў і здабыцьцё грамадзкіх сымпатыяў. Ува ўлоньні акупацыйных уладаў таксама намеціўся сур’ёзны раскол. У дадатак, ува Ўсходняй і Заходняй Беларусі існавалі адрозьненьні ў сыстэмах акупацыйнага рэжыму: у першай панавала вайсковая адміністрацыя, а ў другой — цывільная.

Пры такіх складаных умовах было няпроста ацаніць многія зьявы і падзеі ў акупаванай Беларусі. Пасьля вайны, на Нюрнбэрскім працэсе, шэф Галоўнай управы СС[1], а зь лета 1943 г. — фактычны кіраўнік усходняй палітыкі трэцяга райху Готлаб Бэргер[2] сказаў, што Беларусь — гэта зямля, “на якой, на жаль, нельга было высьветліць, што было

[1] Галоўная ўправа СС — вядучы кіраўнічы орган гэтай арганізацыі, да кампэтэнцыі якога належалі справы кадраў, права, адміністрацыі і г.д. — *А.П.*

[2] Бэргер Готлаб (1896—1975) — генэрал войскаў СС. 20 жніўня 1943 г. быў прызначаны начальнікам 1–га галоўнага аддзелу імпэрскага міністэрства акупаваных усходніх земляў. — *А.П.*

фікцыяй, а што — праўдай"[3]. Джэралд Райтлінджэр — дасьледчык нямецкай палітыкі на акупаваных землях СССР — лічыў, што ў той час у Беларусі панаваў "закон джунгляў"[4].

Гэтая сытуацыя аказала ўплыў на кірункі дасьледаваньняў гісторыі акупацыі Беларусі, якія з розных прычын ахоплівалі толькі паасобныя бакі тагачаснай сытуацыі, стваралі выбарачную, а нярэдка — ідэалізаваную карціну. Так, дасягненьнем беларускай савецкай гістарыяграфіі ёсьць распрацоўка тэматыкі, прысьвечанай дзейнасьці савецкага падпольля і партызанскага руху, яе дасьледаваньні ў гэтай галіне — каштоўная крыніца зьвестак. Варта прыгадаць хаця б такія выданьні, як зборнікі дакумэнтаў, апублікаваныя Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Інстытутам гісторыі АН БССР, у прыватнасьці, трохтомнік "Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны" (Менск, 1967—1982), "Подпольные партийные органы компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны" (Менск, 1975), "Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны" (Менск, 1976), а таксама выдадзеная трохтомная праца — "Всенародная борьба в Белоруссии против немецко–фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны" (Менск, 1982—1985). Праблемы партызанскай вайны дэталёва асьвятляюцца ў калектыўных працах: "Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны" (Менск, 1959), "Гісторыя Беларускай ССР", т. 4 (Менск, 1975), а таксама ў дасьледаваньнях паасобных аўтараў: Л. Цанавы*, П. Калініна, І. Краўчанкі, П. Ліпілы, П. Панамарэнкі**, В. Раманоўскага і іншых, нарэшце, ува ўспамінах шматлікіх яе ўдзельнікаў.

Карныя дзеяньні атрадаў СС і Вэрмахту разглядаюцца ў такіх дакумэнтальных публікацыях, як "Преступления немецко–фашистских оккупантов в Белоруссии (1941—1944)" (Менск, 1965), "Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии" (Менск, 1984), "Я з вогненнай вёскі" (Менск, 1975) пад аўтарствам Я. Брыля, У. Калесьніка і А. Адамовіча. Гэтую дзейнасьць звычайна паказваюць як вынік пасьлядоўнага генацыду беларускага народу, аднак ня ўказваецца, што яна была адказам на партызанскія выступленьні. Ня выйшла ў БССР і асобных дасьледаваньняў, прысьвечаных вынішчэньню габрэйскага насельніцтва. Мала ўвагі ўдзялялася нямецкай палітыцы на Беларусі, функцыянаваньню акупацыйнага рэжыму на яе тэрыторыі, нарэшце, дзейнасьці нацыяналістычных групаў. Гэтыя праблемы закранае В. Раманоўскі ў спэцыфічным кантэксьце выкрыцьця беларускага нацыяналізму (Саўдзельнікі ў злачынствах. Менск, 1964), а таксама А. Фактаровіч у сваёй працы, прысьвечанай барацьбе беларускіх партызан з аграрнай палітыкай акупацыйных уладаў. Павярхоўна раскрываюць гэтыя пытаньні і аўтары "Гісторыі Беларускай ССР" (т. 4).

Гэтыя прагалы ў некаторай ступені запоўніла беларуская эміграцыйная гістарыяграфія. У прыватнасьці, заслугоўваюць увагі два каштоўныя зборы дакумэнтаў, якія датычаць дзейнасьці Беларускай цэнтральнай рады: "Другі ўсебеларускі кангрэс" (Мюнхэн, 1954), а таксама "За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі" (Лёндан, 1960). Вельмі пазнавальныя ў гэтым пляне ўспаміны К. Акулы, Л. Галяка, С. Каўша, Я. Малецкага, працы І. Касяка, В. Калюша (Р. Астроўскага), А. Мартаса, Л. Рыдлеўскага, нарэшце, шматлікія артыкулы, апублікаваныя ў эміграцыйнай пэрыёдыцы. Недахоп гэтых распрацовак у тым, што яны не абапіраюцца на архіўныя крыніцы, затое вартасьць — у багацьці дробных дэталяў, канкрэтных здарэньняў, рэльефных гістарычных постацяў і людзкіх узаемадачыненьняў, апісаных з уласнага досьведу і назіраньняў.

---

* Цанава Лаўрэнці (1900—1955) — у канцы 1930 — пачатку 1950–х кіраўнік органаў дзяржаўнай бясьпекі БССР, фармальны аўтар кнігі "Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков" (Т. I—II, 1949—1951). — *А.П.*

** Панамарэнка Панцеляймон (1902—1984) — былы першы сакратар ЦК КП(б)Б і начальнік Цэнтральнага штабу партызанскага руху. — *А.С.*

[3] Trials of War Criminals before the Nuernberg Military Tribunals. Vol. XIII. Washington, 1952. P. 548.

[4] Reitlinger G. The House Built on Sand. The Conflicts of German Policy in Russia 1939—1945. London, 1960. P. 159.

Заходненямецкія, ангельскія і амэрыканскія аўтары разглядаюць гісторыю акупацыйнага пэрыяду на Беларусі, альбо як частку агульнай нямецкай палітыкі на акупаваных землях СССР (О. Бройтыгам, А. Далін, Р. Гэрцаг, Э. Гэсэ, П. Кляйст, Дж. Райтлінджэр), альбо ў агульным кантэксьце гісторыі Беларусі (І. Любачка, Н. Вакар), альбо ў аспэкце паходжаньня беларускай пасьляваеннай эміграцыі (Д. Лофтус). Некаторыя з гэтых аўтараў не надавалі вялікай увагі гісторыі нямецкай акупацыі менавіта на тэрыторыі Беларусі, але зрабілі сур'ёзны ўнёсак у асьвятленьне паасобных спэцыфічных праблемаў, такіх, як партызанская вайна (Гэсэ), паходжаньне і дзейнасьць Саюзу беларускай моладзі (Гэрцаг), альбо пазыцыя жыхароў Усходняй Беларусі на пачатку акупацыі (Вакар), ці стаўленьне Кубэ да праблемы вынішчэньня габрэйскага насельніцтва на Беларусі (Гайбэр, Райтлінджэр).

Акупацыйная гісторыя Беларусі не была прадметам дасьледаваньняў польскіх вучоных. Вельмі коратка ў больш шырокім кантэксьце асьвятлялі гэтую тэму У. Банусяк, М. Досман, Ч. Мадайчык. Е. Карлікоўскі разглядаў нямецкую палітыку ў Беластоцкай акрузе, аднак пры гэтым ён мала закрануў усходнія раёны Беласточчыны, якія пасьля вайны засталіся ў складзе Беларускай ССР. І ужо зусім слаба было дасьледавана польскае пытаньне на тэрыторыі акупаванай Беларусі, на гэты конт сустракаліся толькі паасобныя кароткія згадкі. Так, М. Юхневіч апісаў удзел палякаў у савецкім руху супраціву на Беларусі, а Ц. Хлябоўскі — дывэрсійную дзейнасьць "Wachlarza" на гэтай тэрыторыі. Больш інфармацыі пра польска–беларускія ўзаемадачыненьні таго пэрыяду можна атрымаць з працаў эміграцыйных аўтараў Я. Эрдмана, Я. Праўдзіца–Шляскага, прысьвечаных гісторыі Арміі Краёвай на Навагрудчыне.

Такім чынам, трэба сказаць, што, апрача дакумэнтальных збораў і распрацовак паасобных пытаньняў, дагэтуль не было напісана навуковай манаграфіі, якая ахапіла б у поўным аб'ёме асноўныя пытаньні акупацыйнай гісторыі Беларусі. Аўтар гэтай кнігі таксама не прэтэндуе на стварэньне такога дасьледаваньня, яго задачаю было паказаць асноўныя палітычныя працэсы, якія дзеяліся на Беларусі ў 1941—1944 г., разгледзець іх па магчымасьці поўна і ўсебакова, дайсьці да ўласных высноў, незалежных ад папярэдніх супярэчлівых ацэнак сьведак і пасьляваенных інтэрпрэтатараў падзеяў. І таму ня варта дый немагчыма было загадзя вызначыць нейкую акрэсьленую генэральную тэзу альбо якія–небудзь агульныя гатовыя меркаваньні. Наадварот, у працэсе дасьледаваньня аўтар пастараўся перш за ўсё знайсьці дакумэнтальныя пацьвярджэньні дэталяў і ўжо на іх падставе самастойна фармуляваць лягічныя высновы.

Таму асабліва вялікая ўвага была нададзена знаёмству з тагачаснай дакумэнтацыяй, як апублікаванай (дакумэнты Нюрнбэрскага працэсу), так і архіўнай. Многія з гэтых крыніц аказаліся даступныя ў Польшчы. Пасьля вайны ў Злучаных Штатах былі пераэнятыя на мікрафільмы калекцыі дакумэнтаў нямецкага міністэрства ўсходніх земляў (*Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete*) — т.зв. александрыйскія мікрафільмы (T–454), якія амаль поўнасьцю захоўваюцца ў Архіве новых актаў у Варшаве (далей — AAN). Калекцыі дакумэнтаў райхсфюрэра СС (T–175) і НСРПН (T–81) часткова таксама знаходзяцца ў AAN, а часткова — у Архіве галоўнай камісіі па расьследаваньні гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы, дзе ляжыць яшчэ адзін багаты збор дакумэнтаў Амэрыканскага вайсковага трыбуналу ў Нюрнбэргу. Шмат матэрыялаў, асабліва якія датычаць польскага насельніцтва ў Беларусі і польска–беларускіх узаемадачыненьняў, можна знайсьці сярод папер Дэлегатуры польскага эміграцыйнага ўраду і Арміі Краёвай — калекцыі іх дакумэнтаў зьберагаліся ў Цэнтральным архіве ЦК ПАРП (цяпер — AAN). Выявілася, што ў польскіх бібліятэках ёсьць неспадзявана багатыя зборы нямецкай і беларускай пэрыёдыкі, а таксама іншых выданьняў, якія выходзілі ў час вайны. Аднак стан гэтых крыніц не паўсюль аднолькавы — ад паасобных выданьняў засталіся толькі рэшткі, іншыя ляжалі амаль у камплекце. У гэтым сэнсе самыя лепшыя калекцыі аказал-

іся ўва ўнівэрсытэцкіх бібліятэках Варшавы, Торуні, Познані, а таксама ў бібліятэцы *Ossolineum* ува Ўроцлаве. Ксэракопіі шэрагу артыкулаў удалося атрымаць зь бібліятэк Масквы і ФРН. Былі выкарыстаны пэрыядычныя беларускія выданьні 1940—1945 г. і неапублікаваныя ўспаміны тагачасных палітычных дзеячоў з збораў Беларускай бібліятэкі і музэю імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Дадатковую істотную інфармацыю ўдалося атрымаць зь перапіскі, якую аўтар вёў з удзельнікамі падзеяў другой сусьветнай вайны на Беларусі.

У выніку на руках у аўтара аказалася дастатковая колькасьць крыніц, неабходных для дасьледаваньня. Напэўна, дадатковыя архіўныя пошукі дазволілі б паглыбіць і пашырыць асьвятленьне некаторых спэцыфічных пытаньняў, асабліва ў гаспадарчай і культурна–асьветнай галіне.

У дасьледаваньні прыняты храналягічны парадак апісаньня падзеяў. У першым разьдзеле разглядаецца стаўленьне Нямеччыны да беларускага пытаньня ў пэрыяд да нападу на СССР у чэрвені 1941 г. У наступным разьдзеле апісваецца сытуацыя на Беларусі ў першыя месяцы вайны. Трэці, шырокі, разьдзел ахоплівае пэрыяд, пачынаючы ад бітвы пад Масквой да паразы нямецкай арміі пад Курскам, у ім разгледжаны актывізацыя савецкага партызанскага руху, разьвіцьцё тэндэнцыяў ува ўсходняй палітыцы кіраўнічых колаў райху, а таксама акупацыйныя мэтады на Беларусі. На гэтым фоне апісваецца фармаваньне настрояў насельніцтва і дзейнасьць беларускіх палітычных згуртаваньняў. У чацьвертым разьдзеле гэтыя самыя праблемы асьвятляюцца ў апошняй фазе акупацыі, ува ўмовах набліжэньня татальнага разгрому Нямеччыны, які ўсьведамлялі ўсе ўдзельнікі палітычнай гульні і насельніцтва. Нарэшце, пад канец аўтар спрабуе даць ацэнку вынікаў вайны і акупацыі.

## I. Нямеччына і Беларусь у 1915—1941 гадох

### Нямецкая палітыка на Беларусі ў часе першай сусьветнай вайны

У 1902 г. у Пецярбургу ўбачыла сьвет гектаграфічная адозва “Да інтэлігенцыі”, якая ад імя Беларускай рэвалюцыйнай партыі, што была па сутнасьці студэнцкім гуртком, створаным Вацлавам Іваноўскім, заклікала выхаваную ў традыцыях польскай культуры інтэлігенцыю беларускіх земляў распачаць асьветную дзейнасьць сярод беларускага люду на яго роднай мове[1]. Аўтары адозвы разумелі, што такая дзейнасьць пакуль яшчэ немагчымая, бо па сутнасьці не існавала ні беларускай літаратуры, ні агульнанацыянальнай беларускай літаратурнай мовы. Таму яны прапанавалі канкрэтную праграму стварэньня гэтай мовы і літаратуры, вывучэньня роднай гісторыі і арганізацыі выдавецкай дзейнасьці[2]. Гэта была пачатковая, найпрасьцейшая культурна–асьветная праграма, якая адлюстроўвала ледзь не нулявы ўзровень беларускага нацыянальнага руху на пачатку XX ст., а таксама імкненьне да стварэньня такога руху.

Рэалізацыі гэтай праграмы спрыяла царская адмена абмежаваньняў друку на беларускай мове (25.12.1904 г.), гэтак жа, як і рост грамадзкай актыўнасьці, зьвязаны з рэ-

[1] Вацлаў Іваноўскі нарадзіўся 7.6.1880 у фальварку Лябёдка Лідзкага павету Віленскай губ. у памешчыцкай сям’і. Скончыў V клясычную гімназію ў Варшаве (1899 г.), восеньню таго ж году паступіў на факультэт хіміі Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту, які скончыў у 1904 г. Заснавальнік і старшыня выдавецкіх таварыстваў у Пецярбургу (1906—1913) і Вільні (1913—1915). У 1915—1917 г. — кіраўнік Беларускага камітэту дапамогі ахвярам вайны ў Вільні і Петраградзе. У 1918 г. — выкладнік пэдагагічнага інстытуту ў Менску і міністар асьветы БНР. Пасьля няўдалых спробаў па стварэньні беларускай дзяржавы ў 1921 г. сышоў з палітычнай арэны. У 1922—1939 г. — прафэсар Варшаўскага політэхнічнага інстытуту, а ў 1940—1941 г. — Віленскага ўнівэрсытэту. У лістападзе 1941 г. стаў бурмістрам г. Менску, дзе і памёр ад ранаў, нанесеных у часе замаху на яго асобу.

[2] Тэкст адозвы “Да інтэлігенцыі” зьмешчаны ў лёнданскім часопісе “Przedświt” (1903. № 2. Luty).

валюцыйнымі падзеямі 1905 г. Праўда, царскія ўлады і надалей не прызнавалі нацыянальнай адметнасьці беларусаў (што, між іншым, выявілася ў забароне беларускіх школаў), тым ня менш прынцыпова не перашкаджалі разьвіцьцю выдавецкай дзейнасьці, літаратуры і культуры, у якіх былі дасягнуты даволі значныя вынікі[3]. Паступова беларускі нацыянальны рух рабіўся прыкметным грамадзкім фактам, знаходзіў сабе прыхільнікаў і ворагаў, аднак у момант выбуху першай сусьветнай вайны заставаўся ўсё ж зьявішчам вельмі маладым: з моманту выданьня прыгаданай адозвы прайшло дванаццаць год, а ад пачатку ў 1906 г. легальнай выдавецкай дзейнасьці — толькі восем. Пэрыяд гэты быў замалы, каб рух стаў масавым, а беларуская нацыянальная традыцыя і грамадзка–палітычная думка набылі належнае разьвіцьцё.

Узьнікненьне беларускага нацыянальнага руху выклікала шматлікія і разнастайныя водгукі польскіх, расейскіх, украінскіх і літоўскіх публіцыстаў, беспасярэдне зацікаўленых яго пэрспэктывай і вынікамі. Але для Нямеччыны гэтае пытаньне было занадта далёкае і нязначнае, таму перад першай сусьветнай вайной там не зьявілася аніводнай кнігі ці якой–небудзь саліднай публікацыі, прысьвечанай Беларусі і яе праблемам[4]. У нямецкіх навуковых і палітычных колах гэты край звычайна трактавалі як гаспадарча і культурна адсталую частку Расеі, якая вылучалася толькі сваёй этнічнай спэцыфікай.

Выбух сусьветнай вайны значна павялічыў цікавасьць нямецкіх гісторыкаў і публіцыстаў да праблем нерасейскіх народаў Расеі. У 1915—1916 г. у Нямеччыне зьявіўся шэраг працаў, дзе аўтары разглядалі разнастайныя канцэпцыі выкарыстаньня райхам вызваленчых імкненьняў палякаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў, фінаў і нават украінцаў. Аднак усьцяж яны не выказвалі зацікаўленьня беларусамі[5]. У 1915 г. Экегард Остман акрэсьліў іх як люд сялянскі і работніцкі, бяз годнай увагі інтэлігенцыі, наймацней сярод усіх астатніх народаў параднёны з расейцамі, у сувязі з чым ня бачыў рэальных магчымасьцяў узьнікненьня сярод іх сэпаратысцкіх тэндэнцыяў[6].

Шырэй за немцаў займаліся беларускай праблематыкай у Нямеччыне і Аўстрыі польскія і ўкраінскія публіцысты, спрабуючы аказаць уплыў на грамадзкую думку і ўрадавыя колы цэнтральных дзяржаў[7] у напрамку сваіх палітычных інтарэсаў. І калі Леан Васілеўскі прадстаўляў беларусаў як “бясформную этнаграфічную масу”, а беларускі рух — як зьяву, што ня мае ніякага палітычнага значэньня, зьвязваючы пры гэтым вырашэньне лёсу Беларусі з апорай на польскае насельніцтва і прыхільнае да польскасьці беларускае каталіцкае жыхарства[8], дык украінскі публіцыст Стэфан Руд-

[3] У 1906 г. у Пецярбургу было створана першае беларускае легальнае выдавецтва, а ў Вільні пачалі выходзіць першыя газэты: “Наша Доля” і “Наша Ніва”. Гэтая дзейнасьць хутка пашыраецца, і ўжо праз некалькі год зьяўляюцца новыя выдавецкія суполкі і часопісы, між іншым, у Менску (“Саха”, “Лучынка”), вандроўны аматарскі тэатар, Беларускі настаўніцкі саюз — з дапамогай яго сяброў былі арганізаваны першыя беларускія школы, па–ранейшаму яшчэ нелегальныя. Да беларускага руху далучаюцца беларускія каталіцкія ксяндзы, арганізуецца беларускі гурток у Пецярбурскай рыма–каталіцкай духоўнай акадэміі, у сьвет выходзіць беларуская каталіцкая літаратура, між іншага — штотыднёвік “Беларус” у Вільні.

[4] Першая кніжка, прысьвечаная Беларусі, — “Weissruthenien Land–Bewohner–Geschichte–Volkswirtschaft–Kultur–Dichtung” пад рэдакцыяй Вальтэра Егера (Walter Jäger), — зьявілася ў Бэрліне толькі ў 1919 г. і практычна амаль цалкам абапіралася на матэрыялы, атрыманыя ў часе акупацыі.

[5] Friedrichsen M. Grenzmarken des europäischen Russlands. Hamburg, 1915; Ostmann E. Russlands Fremdvölker seine Stärke und Schwäche. München, 1915; Revelstein von H. Die Not der Fremdvölker unter dem russischen Joch. Berlin, 1916; Stavenhagen K. Die Kriegsziele des Grossrussentums und der Fremdvölker Russlands. Berlin, 1916.

[6] Ostmann E. S. 18—19.

[7] Гаворка пра Нямеччыну і Аўстра–Вугоршчыну. — *А.С.*

[8] Wasilewski L. Die nationalen und kulturellen Verhältnisse im sogenannten Westrussland. Wien, 1915. S. 16—17, 28—29.

нянскі падкрэсьліваў дадатныя рысы гэтага руху, вылучаючы на першы плян разьвіцьцё літаратуры і абуджэньне беларускіх сялянскіх масаў да самастойнага нацыянальнага жыцьця[9]. Крыніцай зьвестак пра Беларусь былі таксама бэрлінская “Polnische Blätter” і венскі тыднёвік “Polen”.

Аднак найважнейшым фактарам, якім тлумачылася невялікае зацікаўленьне нямецкіх аўтараў беларускім пытаньнем, была пазыцыя ўрадавых колаў райху, што грунтавалася на іх стасунках з Расеяй і вызначаных ваенных мэтах. Імкнучыся стварыць новыя суадносіны сілаў і дасягнуць палітычнага і эканамічнага дамінаваньня ўва Ўсходняй Эўропе, нямецкі імпэрыялізм не выпускаў з поля зроку сваіх эканамічных інтарэсаў у Расеі і ня траціў надзеі на пашырэньне гаспадарчых стасункаў з гэтай краінай пасьля вайны. Гэтая акалічнасьць мела вялікае значэньне, асабліва для нямецкай прамысловасьці, для якой расейскі рынак збыту ўяўляў шматабяцальны шанец разьвіцьця. У выніку, эканамічны фактар супрацьдзейнічаў імкненьням да празьмернага аслабленьня і разьдзяленьня Расеі і ўплываў на зацікаўленасьць ураду райху ў як мага хуткім дасягненьні зь ёю мірнага пагадненьня[10].

Пры такім становішчы ў першай фазе вайны, асабліва пасьля наступленьня расейскіх войскаў ува Ўсходняй Прусіі ў 1914 г., урадавыя колы нямецкага райху хоць і спадзяваліся адсунуць Расею ад сваіх усходніх межаў і стварыць для гэтага буфэрную польскую дзяржаву, а таксама анэксаваць Літву і Курляндыю, аднак далей гэтых захопніцкіх плянаў ня йшлі. Такія намеры меліся быць, як прынята лічыць, досыць памяркоўныя і прымальныя для расейскага боку ў часе мірных перамоў[11]. Такім чынам, Беларусь, як, зрэшты, Украіна, Латгалія і Эстонія, заставалася па–за абсягам нямецкіх тэрытарыяльных дамаганьняў, таму не бралася пад увагу канцэпцыя беларускіх адраджэнцаў аб стварэньні залежнай ад Нямеччыны буфэрнай беларускай дзяржавы і выкарыстаньні для гэтай мэты беларускага нацыянальнага руху[12]. Такім чынам, слабасьць гэтага руху была важным, але не вызначальным фактарам, што прычынілася ў недастатковай зацікаўленасьці нямецкага райху беларускім пытаньнем. Адначасова Нямеччына не зьбіралася выкарыстоўваць сэпаратысцкіх тэндэнцыяў літоўцаў, мацнейшых за тыя, што дзейнічалі сярод беларусаў[13], бо гэта вынікала з вышэйшых мэтаў нямецкай палітыкі, якой у дадзеным выпадку была анэксія Літвы. Згодна з такімі палітычнымі меркаваньнямі разьвіваўся наступ нямецкіх войскаў на Ўсходнім фронце. Летам 1915 г. яны занялі Каралеўства польскае, Літву і Курляндыю, дасягнуўшы пад канец верасьня лініі Дзьвінск—Браслаў—Паставы—Смургоні—Баранавічы—Пінск—Луцак, пасьля чаго наступіла спыненьне ваенных апэрацыяў, якое працягвалася на ўсходзе аж да 18.2.1918 г. Такім чынам, на працягу двух год і пяці месяцаў нямецка–расейскі фронт падзяляў Беларусь на дзьве часткі. Паводле беларускага гісторыка Вадзіма Круталевіча, пад нямецкай акупацыяй заставаліся яе заходнія землі плошчаю 50 тыс. $км^2$, што складала прыкладна 25% сучаснай тэрыторыі Беларусі[14].

---

[9] Rudniański S. Weissrussischer Brief // Das literarische Echo. 1915. Oktober. Heft 2. S. 114.

[10] Pajewski J. Mitteleuropa. Studia z dziejów imperializmu niemieckiego w dobie pierwszej wojny światowej. Poznań, 1959. S. 43—45.

[11] Тамсама, с. 40—42, 55. Варта адзначыць, што ў жніўні—верасьні 1914 г. канцлер райху Тэабальд фон Бэтман Гольвэг прызнаваў неабходнасьць ліквідацыі панаваньня Расеі над нерасейскімі народамі і лічыў, што мэтазгодна стварыць паміж Нямеччынай і Расеяй шэраг буфэрных дзяржаваў. Аднак гэтыя погляды не распаўсюджваліся на Беларусь. Weltherrschaft im Visier. Berlin, 1975. S. 79, 87.

[12] На жаль, аўтар не пацьвярджае дакумэнтальна, хто зь беларускіх адраджэнцаў і калі распрацаваў канцэпцыю стварэньня залежнай ад Нямеччыны буфэрнай беларускай дзяржавы. — *А.С.*

[13] Fischer F. Griff nach der Weltmacht. Die Kriegszielpolitik des kaiserlichen Deutschland 1914—1918. Düsseldorf, 1967. S. 124.

[14] Круталевич В. Рождение Белорусской Советской Республики (На пути к провозглашению республики. Октябрь 1917 — декабрь 1918). Минск, 1975. С. 154.

Увосень 1915 г. на частцы занятых паўночна–ўсходніх земляў быў створаны вайсковы адміністрацыйны абшар Обэр Ост, які ўзначаліў шэф генэральнага штабу генэрал Эрых Людэндорф пад агульным кіраўніцтвам камандуючага Ўсходнім фронтам фэльдмаршала Паўля фон Гіндэнбурга. Абшар гэты, плошчаю 109 тыс. км$^2$, пасьля неаднаразовых зьменаў унутранай адміністрацыйнай структуры вясной 1917 г. падзяляўся на тры адзінкі: Літву, Курляндыю і Беластоцка–Гарадзенскую акругу, якой прызначалася роля сувязнога зьвяна паміж Прыбалтыкай і Польшчай[15]. У межах гэтай акругі апынулася трэцяя частка акупаваных беларускіх земляў плошчаю каля 17 тыс. км$^2$. На адрэзку ад ваколіц Ліды да Браслава ўсходняя мяжа Обэр Осту супадала, зь невялікімі адхіленьнямі, з сучаснай граніцай Літвы і Беларусі[16].

Усходняя мяжа Обэр Осту супадала з засягам нямецкіх тэрытарыяльных дамаганьняў у Расеі. Разам з усходняй граніцай запраектаванай польскай дзяржавы яна павінна была разьдзяліць тэрыторыі панаваньня Расеі і Нямеччыны. Рэштка акупаваных беларускіх земляў плошчаю каля 33 тыс. км$^2$ уваходзіла ў склад апэрацыйнай паласы войска паміж граніцай Обэр Осту і лініяй нямецка–расейскіх акопаў. Да гэтых земляў урадавыя колы райху ня мелі анэксійных намераў. Яны павінны былі адыграць ролю разьменнай пазыцыі ў будучых мірных перамовах і вярнуцца да Расеі пасьля адмаўленьня апошняй ад прэтэнзій на землі, далучаныя да Обэр Осту[17].

Урадавая пазыцыя райху ў гэтай справе заставалася нязьменнай прыкладна да канца 1916 г. Аб гэтым сьведчыць выказваньне канцлера Тэабальда фон Бэтман Гольвэга ад 23.11.1916 г., у якім ён акрэсьліў ваенныя задачы Нямеччыны наступным чынам: "Прызнаньне новага Каралеўства польскага, саступка земляў Курляндыі і Літвы і ўсталяваньне з стратэгічных меркаваньняў супольнай мяжы нямецкіх (г.зн. Обэр Осту. — *Ю.Т.*) і польскіх тэрыторый з Расеяй"[18]. Гэтая пазыцыя часткова зьмянілася пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расеі. Як паказвае пратакол нарады Бэтмана Гольвэга зь вярхоўным вайсковым камандаваньнем, якая адбылася 23.4.1917 г. у Бад–Кройцнаху, у гэты час разглядалася магчымасьць пашырэньня тэрытарыяльных набыткаў Нямеччыны ў Прыбалтыцы (Латвія, Эстонія), але не прадбачылася зьмены ўсходняй мяжы Обэр Осту[19]. У зьмене гэтай мяжы Нямеччына не была зацікаўлена і на берасьцейскіх перамовах. Такім чынам, апроч далучаных да Обэр Осту земляў, што месьціліся ў трыкутніку Горадня — Ліда — Берасьце і складалі каля 8% цяперашняй тэрыторыі Беларусі, акупацыю беларускіх земляў немцы ўважалі за часовую зьяву.

---

[15] Das Land Ober Ost. Deutsche Arbeit in den Verwaltungsgebieten Kurland, Litauen und Białystok–Grodno. Stuttgart, 1917. S. 431; Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. Berlin, 1936. S. 6—9.

[16] Выкарыстаны ў тэксьце тэрмін "беларускія землі" датычыць толькі тэрыторыі сучаснай Беларусі і не ўлучае ў сябе земляў, што ўваходзяць цяпер у склад Польшчы (паветы Беластоцкі, Бельскі, Сакольскі, а таксама частка Ваўкавыскага і Гарадзенскага). У такім самым значэньні ўжывае яго і В. Круталевіч. Тым ня менш мы разумеем усю яго ўмоўнасьць: улучаныя ў склад Польшчы землі належаць да зоны кампактнага пражываньня беларусаў. Паводле падлікаў аўтара, з агульнай плошчы Беластоцка–Гарадзенскай акругі, улучанай у склад Обэр Осту (2664 тыс. км кв.), на тэрыторыю Польшчы прыпадала каля 9,2 тыс. км кв., а на Беларусь — каля 17,2 тыс. км кв.

[17] Паводле арт. 4 Берасьцейскага трактату, акупаваныя беларускія землі, разьмешчаныя на ўсход ад Обэр Осту, павінны былі далучыцца да Расеі пасьля заключэньня ўсеагульнага міру і дэмабілізацыі расейскай арміі, аднак у дадатковай умове нямецка–расейскай дамовы ад 27.8.1918 г. прадугледжваўся больш раньні зварот тэрыторый на ўсход ад Бярэзіны — па меры таго як Расея будзе выконваць фінансавыя забавязаньні перад Нямеччынай // Документы внешней политики СССР. (7.9.1917—31.12.1918). М., 1957. Т. 1. С. 119, 437.

[18] Советско–германские отношения от переговоров в Брест–Литовске до подписания Рапальского договора. Москва, 1968. Т. 1. С. 713.

[19] Тамсама, с. 719.

Такая пазыцыя нямецкага ўраду выключала існаваньне якіх–небудзь маштабных палітычных канцэпцыяў, як, напрыклад, стварэньне незалежнай беларускай дзяржавы, канфэдэрацыю Літвы і Беларусі ці ўлучэньне або фэдэралізацыю беларускіх земляў з Польшчай. Таму большасьць занятых немцамі беларускіх земляў павінна была вярнуцца да Расеі; стасоўна ж той часткі, што далучылася да Обэр Осту, існавалі разнастайныя праекты. Спачатку яна павінна была далучыцца да райху, у 1917 г. — да Літвы, у 1918 г. — да Ўкраіны (частка Беластоцка–Гарадзенскай акругі), і, нарэшце, вясною 1919 г. яе аддалі Польшчы. У такім становішчы, апрача імкненьняў да максымальнай эксплюатацыі гаспадаркі, характэрнай, дарэчы, для ўсіх акупаваных тэрыторый, паводзіны нямецкіх акупацыйных уладаў абмяжоўваліся фактычна рэалізацыяй вышэй акрэсьленай нацыянальнай палітыкі.

З гэтага гледзішча на тэрыторыі Обэр Осту панавалі вельмі адрозныя ўмовы. Паводле дадзеных перапісу 1897 г., якімі карысталася нямецкая адміністрацыя, 34,4% жыхароў гэтага абшару складалі літоўцы, 20,8% — беларусы, 13,5% — габрэі, 11,8% — палякі, 10,5% — латышы, 6,2% — расейцы і 2,5% — немцы (гл. табл. 1). Каля $^2/_3$ ад усяго беларускага насельніцтва Обэр Осту прыпадала на Беластоцка–Гарадзенскую акругу, дзе яно складала абсалютную большасьць (56,0%). Аднак дадзеныя перапісу ў часе вайны не адлюстроўвалі фактычнага стану галоўным чынам таму, што ня ўлічвалі істотных дэмаграфічных зрухаў, якія адбыліся за гэты пэрыяд. А між тым з 1897 па 1914 г. агульная колькасьць жыхароў краю ўзрасла на 30% — да 5,8 млн.[20], пасьля чаго, у выніку эвакуацыі ў глыб Расеі ў 1915 г., паменшала напалову і ў 1916 г. складала 2,9 млн.[21]. У яшчэ большай ступені зьменшылася колькасьць праваслаўнага насельніцтва, і працэнт беларусаў ад агульнай лічбы жыхароў Обэр Осту ў выніку быў, напэўна, ніжэйшы, чым у 1897 г.

Такім чынам, улады Обэр Осту апынуліся перад праблемай кіраваньня шматнацыянальным рэгіёнам, дадатковую спэцыфіку якога складала абумоўленая гістарычна дамінацыя польскай культуры на беларуска–літоўскіх землях і нямецкай — у Курляндыі. Маладыя літоўская, латыская і беларуская культуры, якія разьвіваліся ў цені гэтых старых культураў, былі яшчэ слабыя, а іх грамадзкае значэньне — непараўнальнае зь пераважным удзелам гэтых нацыянальнасьцяў у насельніцтве Обэр Осту. Паводле зьвестак дасьледчыка гісторыі школьніцтва за акупацыйны пэрыяд Ганса Цэмке, спробы літоўскай інтэлігенцыі па стварэньні сучаснай літаратурнай мовы былі тады яшчэ ў пачатковай стадыі і не знаходзілі водгуку сярод мясцовага сялянства, якое не разумела штучных моўных нэалягізмаў і высьмейвала іх[22]. Гэткія самыя цяжкасьці перажывала

**Табліца 1.** Нацыянальная структура насельніцтва Обэр Осту
(паводле дадзеных расейскага перапісу 1897 г.)

| | **Обэр Ост цалкам** | | **у т.л. Беластоцка–Гарадзенская акруга** | |
|---|---|---|---|---|
| | **тыс.** | % | **тыс.** | % |
| Усяго | 4504,2 | 100,0 | 1061,4 | 100,0 |
| у тым ліку: | | | | |
| Літоўцы | 1550,3 | 34,4 | 3,5 | 0,3 |
| Беларусы | 936,1 | 20,8 | 594,5 | 56,0 |
| Габрэі | 607,9 | 13,5 | 190,0 | 17,9 |
| Палякі | 534,1 | 11,8 | 147,1 | 13,9 |
| Латышы | 468,9 | 10,5 | 0,2 | 0,0 |
| Расейцы | 278,2 | 6,2 | 112,3 | 10,6 |
| Немцы | 113,0 | 2,5 | 9,2 | 0,9 |

*Крыніца*: Das Land Ober Ost. Stuttgart, 1917. S. 433.

[20] Аўтарскія разьлікі зроблены на падставе статыстыкі насельніцтва Гарадзенскай, Ковенскай, Курляндзкай і Віленскай губэрняў 1896 і 1914 г.

[21] Das Land Ober Ost... S. 431.

[22] Zemke. ... S. 53.

ў сваім разьвіцьці і беларуская мова і літаратура.

Імкнучыся вырашыць складаную моўную праблему, акупацыйныя ўлады прынялі за прынцып аднолькавае стаўленьне да ўсіх нацыянальнасьцяў[23]. Гэта было зьвязана, напэўна, з намечанай у першай фазе вайны анэксіяй усёй тэрыторыі Обэр Осту, бо наданьне прывілеяў нейкай адной нацыі зь нямецкага гледзішча было б нявыгадна. У выніку, для ўсіх нацыянальнасьцяў у роўнай меры меў дачыненьне ўказ аб забароне ўсялякай палітычнай дзейнасьці, выдадзены Гіндэнбургам 28.7.1915 г.[24], гэтак жа, як і дазвол уладаў на функцыянаваньне камітэтаў дапамогі ахвярам вайны. Да сярэдзіны 1917 г. яны былі адзінай легальнай формай грамадзкай дзейнасьці мясцовага насельніцтва. Гэтыя камітэты выконвалі таксама ролю нефармальных прадстаўніцтваў паасобных нацыянальнасьцяў і былі ўпаўнаважаныя даваць уладам прапановы ў сацыяльнай, асьветнай і культурнай галінах[25].

Прынцып аднолькавага стаўленьня да паасобных нацыянальнасьцяў Обэр Осту афіцыйна быў заяўлены ў выдадзеных Гіндэнбургам 22.12.1915 г. асноўных дырэктывах, якія датычылі арганізацыі школьніцтва, а таксама — у інструкцыі ад 16.1.1916 г.[26]. У іх забаранялася весьці ў пачатковых школах навучаньне па–расейску і ўводзілася абавязковае выкладаньне на роднай мове. Такі парадак павінен быў захоўвацца і пры вывучэньні рэлігіі. Інструкцыі прадугледжвалі для ўсіх школаў абавязковае вывучэньне нямецкай мовы ў ступені, дастатковай для авалоданьня яе вуснай і пісьмовай формамі. Затое ня ўводзілася абавязковага наведваньня школы, што выключала прымусовае навязваньне дзецям навукі на мове, якую іх бацькі ўважалі за непажаданую. У імя ажыцьцяўленьня прынцыпу раўнапраўя ўсім нацыянальнасьцям Обэр Осту была дазволена культурная дзейнасьць і выданьне газэт на роднай мове. Выдаваліся дзьвюхмоўныя пашпарты: нямецка–латыскія, нямецка–літоўскія, нямецка–польскія і нямецка–беларускія — адпаведна па акругах.

У новай сытуацыі магчымасьці беларускай грамадзка–культурнай працы напачатку былі вельмі абмежаваныя. Прычынай была вайсковая мабілізацыя, а таксама эвакуацыя насельніцтва, якая ахапіла большую частку дзеячоў беларускага руху, у глыб Расеі. Створаны ў сакавіку 1915 г. "Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны" ў Вільні пасьля эвакуацыі яго старшыні Вацлава Іваноўскага працягваў ува ўмовах нямецкай акупацыі сваю дзейнасьць пад кіраўніцтвам Антона Луцкевіча. Увосень 1915 г. ён згуртаваў вакол сябе невялікую групу засталых дзеячоў, сярод якіх найбольшую ролю адыгрывалі Францішак Аляховіч, Алёйзія Пашкевіч–Кайрыс, Вацлаў Ластоўскі, Іван Луцкевіч, Вінцэнт Сьвятаполк–Мірскі, Юліяна Мэнке, Баляслаў Пачобка, Язэп Салавей і ксёндз Уладзіслаў Талочка. Асабліва цяжкая кадравая сытуацыя была ў правінцыі.

Яшчэ ў першыя месяцы акупацыі, перад выхадам указаньняў Гіндэнбурга, камітэт арганізаваў у Вільні настаўніцкія курсы, потым, у канцы 1915 г., адкрыў першую ў гісторыі і адзіную ў той час беларускую народную школу[27]. У гэты пэрыяд стараньнямі польскага Камітэту адукацыі ў Вільні былі адчынены 4 польскія гімназіі, 8 прагімназій, 30 пачатковых школаў, а таксама сотні школаў у правінцыі[28], створаных, між іншым,

[23] Ibidem. S. 55, 87.

[24] Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk–Łódź, 1982. S. 277.

[25] Вітан К. [Ю. Дубейкаўская]. Беларуская дзейнасьць пад першай нямецкай акупацыяй // Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Нью–Ёрк, 1974. Т. 12. С. 59 і далей.

[26] Поўны тэкст гэтых дакумэнтаў апублікаваў Цэмке (Zemke. S. 105—117).

[27] Першая беларуская народная школа была заснаваная ў Вільні на Лукішках 13 лістапада 1915 г. 15 сьнежня пачала працаваць школа на Антокалі. У стадыі падрыхтоўкі да працы знаходзілася па стане на 15 сьнежня школа на Сьніпішках. 15 сьнежня пачалі працаваць 6–тыднёвыя настаўніцкія курсы на Лукішках (у тым памяшканьні, дзе і першая школа) (БДАМЛМ. Ф. 3, воп. 1, адз. захав. 126, арк. 8). — *А.С.*

[28] Jurkiewicz J. Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905—1922. Poznań, 1983. S. 132. Паводле Цэмке (с. 40), толькі ў адной Беластоцкай акрузе існавала 417 польскіх пачатковых школаў, створаных без папярэдняга ўзгадненьня зь нямецкімі ўладамі.

для беларускіх дзяцей[29]. Гэтае параўнаньне яскрава адлюстроўвала розьніцу інтэлектуальнага і матэрыяльнага патэнцыялу палякаў і беларусаў. Не былі таму перабольшаньнем словы Людэндорфа, які пісаў:

> Беларус не ўваходзіў у разьлік. Палякі пазбавілі яго нацыянальнасьці, не даючы нічога ўзамен. Восеньню 1915 г. я хацеў зарыентавацца ў расьсяленьні беларусаў. Але напачатку знайсьці іх было літаральна немагчыма. І толькі пазьней высьветлілася, што гэта вельмі пашыраны народ, зьнешне, аднак, спалянізаваны і такі адсталы культурна, што дапамагчы яму можна толькі доўгатрывалай дзейнасьцю[30].

Мясцовыя нямецкія ўлады былі слаба зарыентаваныя ў нацыянальнай спэцыфіцы літоўска–беларускіх земляў. У першыя месяцы акупацыі гэтая акалічнасьць тармазіла пачынаньні "Беларускага камітэту дапамогі ахвярам вайны"[31]. Як сьведчыць дзяячка гэтага камітэту Юліяна Мэнке (пасьля вайны — Дубейкаўская, псэўданім — Кветка Вітан), нямецкія вайсковыя ўлады ў Вільні

> ведалі палякаў, расейцаў, габрэяў, часткаю — літоўцаў, але беларусы былі для іх нечым новым. Колькі мэмарыялаў з гістарычнымі тлумачэньнямі трэба было апрацаваць, каб абгрунтаваць жаданьні і патрэбы беларусаў![32]

Прызнаньне немцамі нацыянальнай адметнасьці беларусаў і раўнапраўнага існаваньня беларускай мовы побач зь іншымі мовамі Обэр Осту мела істотнае значэньне для абуджэньня культурна–асьветнай працы[33]. 15.2.1916 г. у Вільні пад рэдакцыяй В. Ластоўскага (зь лета 1917 г. — пад рэдакцыяй Я. Салаўя) пачала выходзіць беларуская газэта "Гоман", якая друкавалася два разы на тыдзень. Яна прапагандавала ідэю незалежнасьці літоўска–беларускіх земляў у выглядзе новага Вялікага Княства Літоўскага, зьмяшчала распараджэньні акупацыйных уладаў, гістарычныя матэрыялы, літаратурныя творы і інш. Да 1918 г. гэта была адзіная беларуская газэта на землях Обэр Осту[34]. Намаганьнямі камітэту 1.6.1916 г. у Вільні быў адчынены так званы Беларускі клюб, у рамках якога арганізавалі аматарскі тэатар, у лютым 1917 г. ён ужо меў сцэну ўва ўласным распараджэньні[35]. У Вільні да таго ж адкрылася беларуская бібліятэка, кнігарня, каапэратыўнае таварыства "Раніца", дзіцячы прытулак "Золак", паступова разьвівалася выдавецкая дзейнасьць, асабліва ў галіне падручнікаў і школьнай літаратуры. У 1918 г. было выдадзена 28 беларускіх кніжак, супраць 7, што выйшлі ў 1916 г.[36].

Асабліва вялікія цяжкасьці выпалі на долю беларускага школьніцтва, якое не існавала з часоў расейскага панаваньня і цяпер павінна было стварацца спачатку. Найважнейшай

[29] Луцкевич А. Литва, Белоруссия и поляки в районе старой оккупации // Чырвоны шлях (Петраград). 1918. 30 лістапада. № 7—8.

[30] Ludendorff E. Meine Kriegserinnerungen 1914—1918. Berlin, 1922. S. 145.

[31] Гэта выявілася ў тым, што немцы спачатку палічылі беларускі рух за "расейскую інтрыгу" // Германафільства і іншыя арыентацыі беларусаў // Беларускі Фронт (Вільня). 1936. 8 сьнежня.

[32] Вітан К. Беларуская дзейнасьць... С. 60.

[33] Engelhardt von E. Weissruthenien. Volk und Land. Berlin—Amsterdam—Prag—Wien, 1943. S. 95.

[34] Газэта "Grodnoer Zeitung", якая выдавалася для жыхароў Беластоцка–Гарадзенскай акругі, у 1916 г. выходзіла на трох мовах: расейскай, польскай і габрэйскай, але не па–беларуску. Урадавы "Befehls– und Verordnungsblatt" зьмяшчаў тэксты на літоўскай, латыскай і польскай мовах, аднак не на беларускай // Das Land Ober Ost... S. 452—453. Напэўна, такая сытуацыя тлумачылася адсутнасьцю перакладчыкаў зь нямецкай на беларускую мову.

[35] Аляхновіч Ф. Беларускі тэатр. Вільня, 1924. С. 103—105.

[36] Вітан К. С. 61; Беларускі каляндар "Сваяк" на 1919 год. Вільня, 1919. С. 21—22; Бібіла Ю. Паасобныя выданьні на беларускай мове (1835—1916) // Летапіс беларускага друку. Ч. 2. Менск, 1929.

праблемай была нястача настаўнікаў, большай часткаю мабілізаваных або эвакуаваных у Расею. Таму ўлады Обэр Осту прынялі рашэньне адкрыць беларускую настаўніцкую сэмінарыю ў Сьвіслачы, што на Гарадзеншчыне, дзе на некалькімесячных курсах[37] павінны былі атрымаць падрыхтоўку новыя кадры. Цяжка аказалася знайсьці выкладнікаў, таму заняткі ў сэмінарыі пачаліся толькі 15.10.1916 г. і працягваліся да 15.11.1918 г. Дырэктарам яе быў анямечаны сылезец Бэндзеха, а выкладнікамі, між іншым, Б. Пачобка і Кваціне́кі, часова — прафэсар Рудольф Абіхт[38] з Брэслаўскага ўнівэрсытэту. У выніку, тут атрымалі падрыхтоўку 144 настаўнікі беларускіх школаў[39]. Пэўная палёгка надыйшла ў 1918 г., калі вярнулася на радзіму частка мабілізаваных ці эвакуаваных пэдагогаў.

Па меры таго як вырашаліся элемэнтарныя кадравыя праблемы, разьвівалася сетка беларускіх пачатковых школаў. Паводле афіцыйных нямецкіх зьвестак, яшчэ ў кастрычніку 1916 г. на ўсёй тэрыторыі Обэр Осту дзейнічала ўсяго 8 такіх школаў, ужо ў сьнежні 1917 г. іх колькасьць узрасла да 50, а вясною 1918 г. дасягнула 89. У большасьці сваёй яны месьціліся на тэрыторыі Беластоцка–Гарадзенскай акругі, дзе вясной 1918 г. дзейнічала ўжо 79 беларускіх школаў. Іх доля ў агульнай лічбе школаў Обэр Осту (без Курляндыі) складала толькі 6,5%, а ў Беластоцка–Гарадзенскай акрузе — 21,2% (гл. табл. 2). Такім чынам, гэты ўдзел быў нашмат ніжэйшы за агульны працэнт беларускага насельніцтва на ўпамянутых землях.

Віною таму быў ня толькі недахоп настаўнікаў, але і пазыцыя польскага каталіцкага духавенства. Яно працівілася адкрыцьцю школаў на роднай мове для беларускіх дзяцей–каталікоў. Спробы нямецкіх уладаў адчыніць беларускія школы былі сустрэты рашучым супрацівам большасьці ксяндзоў, якія выкарыстоўвалі з гэтай мэтай разнастайныя санкцыі: не дапускалі да споведзі і прычасьця бацькоў, што пасылалі сваіх дзяцей у беларускія школы, або і саміх вучняў. Ксяндзы звычайна адмаўляліся выкла-

**Табліца 2.** Школьніцтва на тэрыторыі Обэр Осту (без Курляндыі)

| | Усяго | У тым ліку | | | | Доля беларускага школьніцтва (%) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | літоўскіх | польскіх | беларускіх | | А* | Б** |
| | | | | школаў | вучняў | | |
| Усяго | | | | | | | |
| 10.1916 | 828 | 260 | 385 | 8 | 641 | 1,0 | 1,0 |
| 12.1917 | 1108 | 542 | 291 | 50 | 3266 | 4,5 | 4,4 |
| 3—4.1918 | 1350 | 710 | 299 | 89 | – | 6,5 | – |
| у тым ліку ў Беластоцка-Гарадзенскай акрузе | | | | | | | |
| 10.1916 | 358 | 6 | 267 | 3 | 497 | 0,8 | 1,8 |
| 12.1917 | 324 | 17 | 176 | 46 | 3043 | 14,2 | 11,5 |
| 3—4.1918 | 365 | 23 | 178 | 79 | – | 21,2 | – |

* Узглядам агульнай лічбы школаў.

** Узглядам агульнай лічбы вучняў.

*Крыніца:* Zemke. H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsgebiet Litauen. Berlin, 1936. S. 101—104.

[37] Для першага набору слухачоў курсы былі трохмесячныя, для наступных — шасьцімесячныя. Гл.: Siemakowicz M. Polityka wiadz rosyjskich, niemieckich i polskich wobec szkolnictwa białoruskiego w latach 1903–1922 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1997. № 7. — *А.С.*

[38] Абіхт Рудольф (1850—1921) — нямецкі славіст, прафэсар Уроцлаўскага (Брэслаўскага) унівэрсытэту. Дасьледаваў беларускую мову і літаратуру, судзеяў адраджэньню беларускага пісьменства. — *А.П.*

[39] Deruga A. Z dziejów sprawy białoruskiej w latach 1917—1918 // Przegląd Historyczny. 1968. Zesz. 4. S. 715; Zemke. S. 81.

даць рэлігію па–беларуску і забаранялі дзецям карыстацца падручнікамі катэхізісу на гэтай мове[40]. Паводзіны клеру ў гэтай справе, з традыцыйным трактаваньнем беларусаў каталіцкага веравызнаньня як палякаў, а праваслаўнага — як расейцаў, мелі выразны палітычны характар, яны выяўлялі імкненьні большасьці палітычных груповак у Польшчы да фэдэралізацыі або анэксіі беларускіх земляў. З прычыны супраціву духавенства да вясны 1918 г. у каталіцкіх асяродках Обэр Осту было створана ўсяго толькі пяць беларускіх школаў, пераважная іх большасьць узьнікла сярод праваслаўнага насельніцтва, якое складала каля 60% беларускамоўнай масы на гэтай тэрыторыі і ўхваляла школы на роднай мове[41]. Паводле сьведчаньняў Цэмке, нямецкія ўлады ў Беластоцка–Гарадзенскай акрузе часам ішлі насуперак інструкцыям, даючы згоду на адкрыцьцё польскіх школаў для беларусаў–каталікоў пасьля іх настойлівых пісьмовых хадайніцтваў[42].

У апэрацыйнай вайсковай паласе, якая распасьцерлася на большую частку акупаваных беларускіх земляў, тэндэнцыі нямецкай палітыкі адрозьніваліся ад тых, што панавалі на тэрыторыі Обэр Осту. Яны не знайшлі пакуль што адлюстраваньня ў гістарычных працах і могуць быць апісаны толькі пасьля вывучэньня архіўных матэрыялаў штабу 10 арміі. У роўнай ступені ні беларуская літаратура, ні “Zeitung der 10 Armee” ня ўказваюць на зьяўленьне там якіх–небудзь арганізацыяў, не падаюць інфармацыі пра культурную і выдавецкую дзейнасьць. Напэўна, тут распаўсюджваліся кнігі і часопісы, якія выдаваліся ў Вільні. Аднак прынцыпы школьнай палітыкі ўладаў Обэр Осту хоць і датычылі толькі гэтай тэрыторыі, але аказвалі ўплыў на ўзьнікненьне беларускіх школаў таксама і ў вайсковай апэрацыйнай зоне. Паводле зьвестак А. Луцкевіча, на канец 1918 г. агульная колькасьць гэтых школаў на зямлі “старой акупацыі” (г.зн. на тэрыторыях, занятых немцамі да 18.2.1918 г.) перавышала 150[43]. У параўнаньні да 89 школаў, зарэгістраваных увесну 1918 г. на землях Обэр Осту, гэта азначала, што каля 60 беларускіх школаў было створана ў апэрацыйнай зоне[44]. Іншыя аўтары называюць значна большыя лічбы, аднак не акрэсьліваюць часу і месца існаваньня гэтых школаў. Так, напрыклад, Адам Станкевіч агульны лік беларускіх школаў, створаных за час нямецкай акупацыі, называе больш за 200, Вэрнэр Гасэльблат — аж за 300, а Канстанцін Сракоўскі — каля 350[45]. Магчыма, гэтыя зьвесткі датычаць ня толькі пэрыяду “старой акупацыі”, але таксама і часткі земляў, занятых у 1918 г.[46].

Такім чынам, нямецкая палітыка што да беларусаў у абедзьвюх зонах акупацыі абмяжоўвалася ў асноўным культурна–асьветнымі справамі і не давала падставаў спадзявацца вырашыць справу беларускай дзяржаўнасьці зь нямецкай дапамогай. Незалежна ад прычын такога стаўленьня Нямеччыны беларускія дзеячы на чале з Іванам і Антонам Луцкевічамі, а таксама Вацлавам Ластоўскім разумелі немагчымасьць стварэньня асобнай дзяр-

[40] Zemke. S. 58; Луцкевіч А. Тамсама; Górski T. Stosunek biskupa Jerzego Matulewicza do spraw językowych w diecezji wileńskiej 1918—1925. Rzym, 1970. S. 36—37.

[41] Zemke. S. 58.

[42] Ibidem. S. 57.

[43] У артыкуле “Вільня, 13 жніўня 1918 г.” (Homan. 1918. 13 жніўня) А. Луцкевіч пісаў, што “беларускія народныя школы дайшлі ў нас даволі вялікай цыфры — 150”. У брашуры “Польская акупацыя ў Беларусі” (1920) і артыкуле “Дзесяцілецьце Беларускае школы” (Жыцьцё Беларуса. 1925. 12 лістапада) ён адзначаў, што ў Віленшчыне і Гарадзеншчыне ў пэрыяд нямецкае акупацыі было закладзена 153 школы. Гэтая лічба названая і ў зборніку “Наша Ніва” (Вільня, 1920. С. 48). — *А.С.*

[44] Луцкевіч А. Тамсама.

[45] Станкевіч А. Беларускі хрысьціянскі рух. Вільня, 1939. С. 87; Hasselblatt W. Das weissruthenische Bauernvolk // Nation und Staat. 1942. Oktober. S. 9; Srokowski K. Sprawa narodowościowa na kresach wschodnich. Kraków, 1924. S. 11.

[46] М. Семаковіч піша, што ў сьнежні 1918 г. існавала каля 400 беларускіх школаў: 135 — на Гарадзеншчыне, 150 — на Віленшчыне, 54 — на Наваградчыне. Лічбу школаў на Меншчыне аўтар не назваў. Гл.: Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1997. № 7. S. 28. — *А.С.*

жавы ў зоне акупацыі, пад якой знаходзілася чвэрць беларускіх земляў[47]. Гэта абумовіла тактыку іх паводзін: немцаў трэба было пераканаць у мэтазгоднасьці стварэньня новай самастойнай дзяржаўнай адзінкі — Вялікага Княства Літоўскага, дзе беларускія і літоўскія землі злучаліся б па прынцыпе аўтаноміі. Такая пазыцыя беларускіх дзяячоў знайшла адлюстраваньне ў выдадзеных зь іх ініцыятывы ў сьнежні 1915 г. і лютым 1916 г. адозвах канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага[48], мэмарыялах да парлямэнту (1.9.1917 г.)[49] і канцлера райху[50] (сьнежань 1917 г.), нарэшце, у рэзалюцыях канфэрэнцыі прадстаўнікоў усіх беларускіх груповак, якая адбылася ў Вільні 25—27.1.1918 г.[51]. Гэтая канцэпцыя не ўзбудзіла, аднак, зацікаўленасьці нямецкіх уладаў, якія з 1917 г. імкнуліся да стварэньня асобнай літоўскай дзяржавы, у якую меліся ўвайсьці, між іншым, і далучаныя да Обэр Осту беларускія землі.

Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ажывіўся беларускі нацыянальны рух і на тэрыторыі Ўсходняй Беларусі. У сакавіку 1917 г. узьнікае Беларускі нацыянальны камітэт, які ў выніку шэрагу зьменаў ператвараецца ў Вялікую беларускую раду. Яна прэтэндуе на ролю краёвага палітычнага прадстаўніцтва, у сярэдзіне лістапада 1917 г. патрабуе заключэньня міру зь Нямеччынай, аб’яднаньня акупаваных немцамі беларускіх земляў з рэшткай краю і фэдэралізацыі з Расеяй Беларускай дэмакратычнай рэспублікі. 14.12.1917 г. Рада склікае ў Менску першы ўсебеларускі зьезд, які прыняў пастанову аб неадкладным стварэньні выканаўчага органа ўлады ў Беларусі[52]. Ноччу 18 сьнежня савецкія войскі разагналі зьезд, з гэтай прычыны яго функцыі пераняў падпольны Выканаўчы камітэт Рады зьезду[53], які, між іншым, выслаў сваіх прадстаўнікоў на мірныя перамовы ў Берасьце[54]. Пасьля новага нямецкага наступу (18.2.1918 г.) і адыходу зь Менску савецкіх войскаў (19.2.1918 г.) Рада зьезду выходзіць з падпольля, абвяшчаючы сябе часовым урадам на Беларусі, і 21.2.1918 г. утварае свой выканаўчы

---

[47] Станкевіч А. да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, 1934. С. 83—84.

[48] Гаворка пра ўнівэрсал Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, пісаны І. Луцкевічам, і адозву Канфэдэрацыі, аўтарам якое быў Ю. Шауліс. Дакумэнты апублікаваныя ў: ЛіМ. 1990. 23 лістапада. Унівэрсал надрукаваны таксама ў: Архівы БНР. Т. I. Кн. 1. — *А.С.*

[49] Гаворка пра зварот “беларускага арганізаванага грамадзянства” да Галоўнай камісіі Райхстагу, апублікаваны ў “Homanie” 28 верасьня 1917 г. — *А.С.*

[50] Вядомыя таксама звароты да райхсканцлера, пісаныя 26 сакавіка 1917 г. (БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. захав. 132, арк. 3) і 16 кастрычніка 1917 г. (тамсама, адз. захав. 140, арк. 47—51). — *А.С.*

[51] Пра Беларускую канфэрэнцыю 1918 г. і яе рэзалюцыі гл.: Сідарэвіч А. Антон Луцкевіч: ад краёўства да незалежніцтва // ARCHE. 2006. № 1—2. — *А.С.*

[52] Усебеларускі зьезд пачаў працу 5(18) сьнежня 1917 г. Ініцыятыва яго скліканьня, акрамя Выканаўчага камітэту вялікай беларускай рады, належыць таксама Выканаўчаму камітэту Цэнтральнай вайсковай беларускай рады і Беларускаму выканаўчаму камітэту Заходняга фронту. Зьезд пастанавіў утварыць з свайго складу орган краёвай улады Беларусі — Усебеларускі савет сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. — *А.С.*

[53] У НАРБ (ф. 325, воп. 1, адз. захав. 6, арк. 21) захоўваецца машынапісная копія пратаколу паседжаньня агульнага сходу сяброў 1–га ўсебеларускага зьезду ў дэпо Лібава–роменскай чыгункі раніцай 18 сьнежня 1917 г. На гэтым паседжаньні Рада зьезду была абвешчана часоваю краёваю ўладаю. Тамсама маецца копія рэзалюцыі Рады зьезду, прынятай 21 сьнежня. Рада прызнала сябе часоваю ўладаю і вырашыла папоўніць свой склад прадстаўнікамі сялянаў, рабочых і салдатаў, а таксама нацыянальных меншасьцяў у асобе іх сацыялістычных партыяў. Было вырашана вылучыць з складу Рады выканаўчы камітэт 1–га ўсебеларускага зьезду. Рада даручала Выканаўчаму камітэту прыняць на сябе функцыі выканаўчай улады ў Беларусі. Мелася на ўвазе, што Выканкам сфармуе ўрад, якому была дадзена назва “Ўрад народных камісараў”. — *А.С.*

[54] Турук Ф. Белорусское движение. Очерки национального и революционного движения белорусов. Москва, 1921. С. 34—35. Аўтар піша, што дэлегаты Рады зьезду ўдзельнічалі ў берасьцейскіх перамовах як дарадчыкі ў складзе ўкраінскай дэлегацыі і не маглі аказваць уплыву на іх ходу.

орган — Народны сакратарыят на чале зь Язэпам Варонкам[55].

Палітычная сытуацыя ў Менску мянялася хутка, таму, калі нямецкія войскі ўваходзілі ў горад (25.2.1918 г.), ні бэрлінскія ўлады, ні камандаваньне 10–й арміі ня ведалі яе дакладна. Палітычнай асновай іх паводзінаў мог быць толькі Берасьцейскі трактат, у якім, аднак, беларускае пытаньне не было ўлічана. Займаючы Беларусь аж да Дняпра, немцы па–ранейшаму трактавалі яе як расейскую тэрыторыю, своеасаблівы заклад пад кантрыбуцыю памерам 6 млрд. рублёў, выплочваць якія абавязвалася савецкая Расея[56]. Але ў Менску яны нечакана сутыкнуліся з палітычным цэнтрам, які менаваў сябе беларускім урадам. Увайшоўшы ў горад, нямецкія атрады абышліся зь ім, як з урадам варожай дзяржавы: з будынку Народнага сакратарыяту скінулі беларускі нацыянальны штандар і на яго месцы ўсталявалі нямецкі, канфіскавалі касу, такім чынам зрабіўшы немагчымай далейшую дзейнасьць гэтага органа. Неўзабаве пасьля інцыдэнту Народны сакратарыят адаслаў вышэйшым акупацыйным уладам мэмарыял, у якім, між іншым, дамагаўся тлумачэньняў іх стаўленьня да пабудовы беларускай дзяржаўнасьці.

І хоць зьмест нямецкага адказу невядомы, далейшае разьвіцьцё падзеяў сьведчыць аб тым, што стараньні беларускага Народнага сакратарыяту не былі дарэмныя. Афіцыйна не прызнаны, ён тым часам распачынае ажыўленую нарматыўную дзейнасьць. 9.3.1918 г. Выканаўчы камітэт Рады зьезду выдае ўстаўную грамату, у якой абвяшчае ўтварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі, па–ранейшаму трактаванай як частка агульнарасейскай фэдэрацыі, і акрэсьлівае асновы яе канстытуцыі, у т.л. адмену прыватнага ўладаньня зямлёй і перадачу яе тым, хто на ёй працуе[57]. 18 сакавіка Рада Ўсебеларускага зьезду абвяшчае сябе Радай БНР[58], куды ўваходзяць таксама прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў — палякаў, габрэяў, расейцаў, украінцаў, літоўцаў. Нарэшце 25 сакавіка Рада БНР выдае чарговую ўстаўную грамату, у якой праклямуе незалежнасьць Беларусі і разрыў дзяржаўных сувязяў з Расеяй, абвяшчае пры гэтым неправамоцным Берасьцейскі трактат, паводле якога беларускія землі былі падзелены на некалькі частак[59].

Акт незалежнасьці ад 25 сакавіка адлюстроўваў надзеі на прызнаньне Беларускай Народнай Рэспублікі нямецкім урадам і іншымі краінамі. Аднак гэты крок не прывёў да зьменаў у пазыцыі немцаў. У адказ на ноту Народнага сакратарыяту новы канцлер райху Георг Гертлінг паведаміў, што Бэрлін трактуе Беларусь як частку савецкай Расеі і, паводле Берасьцейскага трактату, ня мае права бяз згоды ленінскага ўраду прызнаць новастворaную беларускую дзяржаву[60]. У канцы красавіка 1918 г. Рада БНР выслала

[55] Выйшаўшы з падпольля 19 лютага 1918 г., Выканаўчы камітэт рады Ўсебеларускага зьезду выдаў загад № 1, у якім абвясьціў, што "ўзяў уладу ў свае рукі", а "для наладжаньня парадку ў гор. Менску" прызначыў камэнданта — Канстанціна Езавітава. 20 лютага было абвешчана аб стварэньні рэвалюцыйнай улады — Народнага сакратарыяту Беларусі. У той самы дзень Народны сакратарыят прыняў на сябе абавязкі Часовага беларускага ўраду. 21 лютага была апублікаваная 1–я Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі і абвестка пра тое, што Народны сакратарыят "ужо прыступіў да спаўненьня сваіх абавязкаў". Да ведама грамадзянаў даводзіўся асабовы склад Народнага сакратарыяту. Гл: НАРБ, ф. 325, воп. 1, адз. захав. 2, арк. 1; Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции: Совместное российско–белорусское исследование. В 3–х ч. Ч. 2–я: У истоков политического противостояния: Материалы и документы по истории общественных движений и политических партий Республики Беларусь. Гомель, 1993. С. 98—99; Архівы БНР. Т. 1. Кн. 1. С. 852. — *А.С.*

[56] Документы внешней политики СССР. Т. 1. С. 119 і далей.

[57] Турук Ф. ... С. 111—112.

[58] Рада Ўсебеларускага зьезду прыняла назоў Рады БНР 19.03.1918. Гл.: НАРБ, ф. 325, воп. 1, адз. захав. 16, арк. 56 адв. — *А.С.*

[59] Турук Ф. ... С. 115—116.

[60] Варонка Я. Беларускі рух ад 1917 да 1920 году. Коўна, 1920. С. 11.

кайзэру Вільгельму II тэлеграму[61] з падзякай за “вызваленьне Беларусі ад чужацкага ўціску і анархіі” і просьбу “абараніць імкненьні Рады да ўмацаваньня дзяржаўнай незалежнасьці і непадзельнасьці краю ў саюзе зь нямецкім райхам”. Адказу не было. Не далі выніку і іншыя намаганьні Рады БНР у гэтай справе.

У чаканьні памыснага павароту ў вялікай палітыцы Нямеччыны і ў сьвеце не прызнаная ў Бэрліне Рада БНР прыступіла ў паразуменьні з камандуючым 10–й арміі генэралам Эрыхам фон Фалькенгайнам да арганізацыі мясцовага апарату ўлады. Ужо 27 сакавіка была апублікавана пастанова аб перадачы пад яе кампэтэнцыю ўсіх краёвых дзяржаўных устаноў. 20 красавіка Рада выдала “часовы загад мясцовым беларускім радам”, у якім акрэсьліваліся прынцыпы выбараў па вёсках, валасьцях, гарадох і мястэчках, паветах і губэрнях органаў Беларускай Народнай Рэспублікі і прыняцьця імі на сябе ўлады ад акупантаў у асобных адміністрацыйных галінах. Паводле сьцверджаньня Круталевіча, немцы перадалі ў кампэтэнцыю Рады БНР ведамствы гандлю, прамысловасьці, асьветы, сацыяльнага забесьпячэньня і інш., якімі кіраваў Народны сакратарыят пад наглядам нямецкіх уладаў[62].

27.5.1918 г. Фалькенгайн прыняў прадстаўнікоў Рады БНР і Народнага сакратарыяту і выказаў ім “сымпатыі нямецкіх уладаў”, паведаміў, што “акупацыйныя ўлады хацелі б бачыць у Радзе пасярэдніка паміж нямецкай адміністрацыяй і беларускім народам дзеля ўлагоджваньня — паводле магчымасьці — жыцьцёвых цяжкасьцяў, выкліканых вайной”. Фалькенгайн дадаў, што дзейнасьць Рады і Сакратарыяту ў гэтым кірунку “прынясе для Беларусі ў недалёкай будучыні пазытыўныя вынікі”. Гэта магло расцэньвацца як абяцаньне прызнаць БНР. У выніку 21.6.1918 г. нямецкае камандаваньне пагадзілася на стварэньне дарадчых установаў пры павятовых камандзірах для рэгуляваньня стасункаў паміж насельніцтвам і нямецкімі войскамі[63].

Важнай сфэрай дзейнасьці Народнага сакратарыяту было школьніцтва. Пры Народным сакратарыяце асьветы было створана бюро па справах распрацоўкі школьных падручнікаў і таварыства “Прасьвета”, якое й занялося іх выданьнем. Былі арганізаваны настаўніцкія курсы і школьная інспэкцыя, пашырылася сетка пачатковых і сярэдніх школаў. У Менску быў створаны Беларускі пэдагагічны інстытут[64], выкладнікамі якога былі В. Іваноўскі, Я. Карскі, Б. Тарашкевіч, У. Ігнатоўскі і інш. Рыхтавалася адкрыцьцё ўнівэрсытэту. Працавалі ў Менску Беларускі тэатар, Таварыства драмы і камэдыі ды іншыя культурныя ўстановы. Пад кантролем Народнага сакратарыяту выходзіла больш дзясятка газэт і часопісаў на беларускай мове.

Народны сакратарыят атрымаў паўнамоцтвы і ў галіне зьнешняй палітыкі. Зь яго ініцыятывы нямецкае вайсковае камандаваньне пачало летам 1918 г. перамовы з урадам савецкай Расеі аб аб’яднаньні з тэрыторыяй БНР усходніх раёнаў Беларусі, занятых расейскімі войскамі. З гэтай мэтай, а таксама для здабыцьця прызнаньня БНР у Маскву выехала беларуская надзвычайная місія, аднак народны камісар замежных справаў Г. Чычэрын яе не прыняў[65]. Былі акрэдытаваныя прадстаўніцтвы БНР на Украіне і ў Літве,

---

[61] Тэлеграму кайзэру выслала ня Рада БНР, а яе дзяячы: старшыня Рады Я. Серада, старшыня Народнага сакратарыяту Я. Варонка, сябры Рады Р. Скірмунт, А. Аўсянік, П. Аляксюк, П. Крачэўскі і Я. Лёсік. Пасьля таго, як тэлеграма была пасланая ў Бэрлін, у Радзе і Народным сакратарыяце вынік крызіс. Калі б пытаньне аб пасылцы тэлеграмы абмяркоўвалася на пленарным паседжаньні Рады, гэтая ідэя наўрад ці была б ухваленая. — *А.С.*

[62] Круталевич В. ... С. 212—213.

[63] Тамсама, с. 244.

[64] У верасьні 1918 г. зь Яраслаўля вярнуўся Менскі настаўніцкі інстытут. Яго далейшую дзейнасьць фінансавалі ўрад БНР і акупацыйныя ўлады. Вялася падрыхтоўка да пераўтварэньня яго ў вышэйшую навучальную ўстанову, аднак адкрыцьцё Менскага беларускага пэдагагічнага інстытуту адбылося ўжо пры бальшавіках — у канцы 1918 г. — *А.С.*

[65] Круталевич В... С. 224—226.

высылаліся дыпляматычныя місіі ў Варшаву, Бэрлін, Бэрн, Капэнгаген і інш. У Кіеве адкрылася Беларуская гандлёвая палата. Грамадзяне краю атрымлівалі пашпарты ад імя Беларускай Народнай Рэспублікі.

Такім чынам, падтрымка, аказаная Фалькенгайнам справе БНР, заходзіла вельмі далёка. Па сутнасьці, беларусам не было дазволена толькі стварэньне ўласнага войска, затое ў астатніх галінах Народны сакратарыят мог разьвіваць дзяржаўную дзейнасьць, за якой, натуральна, сачылі акупацыйныя ўлады. Варта заўважыць, што было гэта ня толькі ціхае неафіцыйнае спрыяньне. Пра тое сьведчыць, між іншым, публічная падтрымка ў друкаваным органе штабу Фалькенгайна — “Zeitung der 10. Armee” — адозвы Беларускага нацыянальнага камітэту ад 17.3.1918 г. з пратэстам супраць літоўскіх, польскіх і ўкраінскіх прэтэнзіяў на беларускія землі, якія ў дачыненьні да Літвы і Ўкраіны былі зацьверджаны Берасьцейскім трактатам, падпісаным немцамі[66].

Дзьве лініі нямецкай палітыкі, г.зн. непрызнаньне Бэрлінам БНР і адначасовае стварэньне яе пад аховай 10–й арміі, супярэчылі сабе толькі вонкава. У сапраўднасьці яны адлюстроўвалі своеасаблівую тактыку паводзін нямецкіх уладаў, якая была вынікам эвалюцыі поглядаў на беларускае пытаньне. Пры ўступленьні ў лютым 1918 г. у Менск немцы былі перакананы ў абсалютнай няздольнасьці беларусаў да стварэньня ўласнай дзяржавы. Аднак яны ўбачылі тут дынамічны палітычны цэнтар, дзейнасьць якога хутка вызваляла ад сну народныя сілы і ўзбуджала сярод немцаў зацікаўленасьць патэнцыйнымі магчымасьцямі беларускага руху. Найбольш скептычна ацэньвалі гэтыя магчымасьці бэрлінскія ўрадавыя колы, пра што сьведчыць іх стаўленьне да ўкраінскага пытаньня[67], затое лякальныя назіраньні не былі такія адназначныя, яны пацьвярджалі мэтазгоднасьць праверкі арганізацыйных здольнасьцяў рады БНР і Народнага сакратарыяту на практыцы.

Стварэньне незалежнай беларускай дзяржавы адлюстроўвала спадзяваньні немцаў на ліквідацыю небясьпечнага расейскага кліну, якім, паводле Берасьцейскага трактату, была Беларусь: ён убіваўся паміж дзьвюма новаўтворанымі дзяржавамі — Літвой і Ўкраінай[68]. На фоне такой палітычнай пэрспэктывы трацілі сваё значэньне перашкоды, што раней не дазвалялі акупантам зацікавіцца беларускім пытаньнем. Так, напрыклад, прафэсар Бэрлінскага ўнівэрсытэту Фрыц Куршман пасьля знаёмства летам 1918 г. з сытуацыяй у Беларусі пагаджаўся, што беларускі рух яшчэ слабы, але прагназаваў яго хуткае і лёгкае высьпяваньне і пашырэньне. Ён бачыў таксама і слабасьць Рады БНР, аднак і тут выразіў перакананьне, што “калі ўжо беларусы трымаюцца ў сядле, дык, пэўна, навучацца езьдзіць”[69]. Немцы ўсьвядомілі карысьць, якую прыносіла існаваньне ўкраінскай і беларускай дзяржаваў для нямецкай палітыкі што да Польшчы і Расеі[70].

Такім чынам, толькі пасьля заключэньня Берасьцейскага міру і акупацыі каля 85% беларускай тэрыторыі пытаньне дзяржаўнасьці гэтага краю зацікавіла нямецкія вайско-

---

[66] Die weissruthenischen Ansprüche // Zeitung der 10. Armee. 20.3.1918. Гл. і тэкст адозвы БНК, падпісаны Раманам Скірмунтам, Аляксандрам Зянкевічам і Паўлам Алексюком.

[67] Наконт Украіны, якую ўжо прызнала Нямеччына, Вільгельм II выказаўся так: “Мы не павінны паддавацца ілюзіі, нібыта Ўкраіна надоўга застанецца адарваная ад Расеі. Украіна, як і Расея, — славянскі край. Яны зьяднаюцца нанова”. Людэндорф заўважыў: “Жыцьцяздольнай украінскай дзяржавы ня будзе ніколі. Нацыянальны дух Украіны існуе і ўтрымліваецца толькі дзякуючы прысутнасьці нашых войскаў”. Гл.: Материалы конференции в Спа, 2—3.7.1918 г. // Советско–германские отношения. Т. 1. С. 576.

[68] Curschmann F. Die Weissruthenen. Ein erwachendes slawisches Bauernvolk // Deutsche Rundschau. Bd. 176, 1918. S. 274, 292.

[69] Ibidem. S. 294.

[70] Bergstrasser Dr. Die Weissrussen und die östliche Abgrenzung Polens // Nord und Süd. Bd. 167, 1918. Dezember. S. 131.

выя колы. Падтрымка дзейнасьці Рады БНР і Народнага сакратарыяту мела на мэце падрыхтаваць іх да прыняцьця на сябе рэальнай улады на Беларусі. Гэта быў, паводле трапнага вызначэньня Куршмана, рэзэрвовы ўрад, фармальнае прызнаньне якога магло ажыцьцявіцца пры дадатным для Нямеччыны выніку вайны. На думку Круталевіча, перад такім рашэньнем не ўстрымалі б немцаў і пастановы Берасьцейскага трактату[71].

Пагаршэньне ваеннай сытуацыі для Нямеччыны на Заходнім фронце не дазволіла рэалізаваць канцэпцыю беларускай дзяржавы. Пры такіх абставінах 27.8.1918 г. была заключана дадатковая ўмова да Берасьцейскага трактату, паводле якой восеньню 1918 г. немцы пачалі перадтэрміновую эвакуацыю сваіх войскаў з тэрыторыі паміж Дняпром і Бярэзінай. Працэс гэты паскорыла рэвалюцыя ў Нямеччыне і яе капітуляцыя. У пачатку сьнежня немцы перадалі ўладу ў Менску савецкім органам. Рада і Ўрад БНР эвакуаваліся ў Горадню[72] і дзейнічалі там да першых дзён красавіка 1919 г., г.зн. да выхаду нямецкіх войскаў з Гарадзеншчыны.

## Узаемныя інтарэсы, кантакты і дачыненьні ў міжваенную пару

Яшчэ восеньню 1918 г. Куршман прадбачыў, што беларусы калі–небудзь не без падстаў будуць з удзячнасьцю ўспамінаць нямецкую акупацыю[73]. Натуральна, ён меў на ўвазе яе палітычныя аспэкты. Праз восем гадоў яго калега з Бэрлінскага ўнівэрсытэту, прафэсар М. Фасмэр адзначыў на акадэмічнай канфэрэнцыі ў Менску, што на Беларусі “нямецкая акупацыя была разумнейшай, чым акупацыя ў іншых месцах”, і што для Беларусі “нямецкі народ сваёй акупацыяй зрабіў менш шкоды, чым другія народы”[74]. Гэта была алюзія наконт падзелу Беларусі, зробленага ў 1920 г. паміж Польшчай і Расеяй, чаго, аднак, у публічным выступленьні ў сталіцы савецкай Беларусі Фасмэр ня выказаў даслоўна.

Балянс нямецкай акупацыі на Беларусі ў часе першай сусьветнай вайны на справе выявіў шэраг важных актываў. Асабліва — прызнаньне Нямеччынай, упершыню сярод дзяржаваў сьвету, нацыянальнага адрозьненьня беларусаў і раўнапраўя іх мовы, стварэньне беларускага школьніцтва і фактычная падтрымка ў 1918 г. незалежніцкіх імкненьняў. Здавалася б, што такія актывы былі дастатковыя для выпрацоўкі ў беларускай палітычнай сьвядомасьці міжваеннага пэрыяду пэўных германафільскіх традыцыяў. У сапраўднасьці яны не атрымалі значнага разьвіцьця ня толькі ў савецкай Беларусі, але і ў заходняй частцы краю, якая, паводле Рыскага трактату, апынулася ў межах польскай дзяржавы. У сьвядомасьці народных масаў нямецкая акупацыя перш за ўсё была зьвязана зь бязьлітаснай эканамічнай эксплюатацыяй і затрымкай працэсу рэвалюцыйных пераўтварэньняў, у колах нацыянальных дзеячоў яе ацэньвалі ня толькі праз прызму актываў, але з гледзішча ўсяго балянсу нямецкай палітыкі, які ў рэшце рэшт аказаўся адмоўным.

У гэтых ацэнках асабліва выдзялялася адмова нямецкага ўраду ад прызнаньня Беларускай Народнай Рэспублікі, што ўжо ў часе акупацыі выклікала вострыя палітычныя крызіс у Радзе БНР і Народным сакратарыяце, а пасьля вайны стварала перакананьне сярод беларускіх нацыянальных дзеячоў у незацікаўленасьці Нямеччыны справай беларускай дзяржаўнасьці[75]. Інцыдэнт ад 25.2.1918 г. з штандарам і касай вырас да

[71] Круталевич В. С. 242.

[72] Спачатку рада і ўрад БНР эвакуаваліся ў Вільню, а ў канцы 1918 г. — у Горадню. — *А.С.*

[73] Curschmann F. S. 288.

[74] Працы акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21.11.1926). Менск, 1927. С. 399.

[75] Луцкевіч А. За двадцаць пяць гадоў (1903—1928). Вільня, 1928. С. 49; Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, l934. С. 109—110; Германафільства і іншыя арыентацыі беларусаў // Беларускі Фронт. 1936. 8 сьнежня.

памераў сымбалю і засланіў сабой дадатныя захады Фалькенгайна. У параўнаньні з гэтымі нэгатыўнымі пачуцьцямі не такім значным выглядаў характар нацыянальнай палітыкі на тэрыторыі старой акупацыі, якая займала адносна невялікую частку беларускіх земляў і эфэкт якой у дужай ступені аслаблялі вынікі Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыяў. Беларускія пасьляваенныя ацэнкі вынікаў нямецкай акупацыі рашуча не пацьвярджалі прагнозаў Куршмана і не супадалі з поглядамі Фасмэра.

Значна ўплывалі на гэта і пасьляваенныя рэаліі. Узьніклая пасьля паразы райху Ваймарская рэспубліка на працягу 14–гадовага існаваньня не стварыла грунту для супрацоўніцтва зь беларускімі нацыянальнымі згуртаваньнямі, якія на той час засяроджваліся ў Вільні і на эміграцыі. Праўда, у Бэрліне дзейнічала група відных дзяячоў БНР (1919—1925 г.), аднак гэта не абудзіла ў немцаў зацікаўленьня беларускім пытаньнем. Сказвалася пацяпленьне ў савецка–нямецкіх стасунках. Пасьля падпісаньня 5.11.1922 г. дамовы паміж Нямеччынай і РСФСР аб пашырэньні ўмоў Рапальскага трактату[76] на іншыя савецкія рэспублікі ў Бэрліне быў акрэдытаваны пасол Беларускай ССР. Працаваў ён, аднак, толькі пару тыдняў, бо пасьля ўтварэньня СССР (30.12.1922 г.) яго функцыі пачала выконваць агульнасаюзная амбасада[77]. Адначасова былі цэнтралізаваны прадугледжаныя ў гэтай умове беларуска–нямецкія гаспадарчыя кантакты. Затое ў 1926 г. пачалі завязвацца беспасярэднія навуковыя сувязі, у рамках якіх Нямеччыну наведаў шэраг беларускіх навукоўцаў. Першым нямецкім вучоным, які ў лістападзе 1926 г. прыехаў у Менск, быў ужо прыгаданы Фасмэр.

Кантакты гэтыя, аднак, працягваліся вельмі нядоўга і не пасьпелі аказаць уплыву на павелічэньне нямецкага зацікаўленьня Беларусьсю. Пасьля першых сьціплых, хоць і даволі цікавых, спробаў навуковага супрацоўніцтва ў часе нямецкай акупацыі[78], у пасьляваенныя гады ў гэтай галіне наступіў амаль поўны застой. Бадай адзіным выняткам была кніжка Я. Карскага “Geschichte der weissrussischen Volksdichtung und Literatur” (Бэрлін, 1925), выдадзеная з ініцыятывы Фасмэра ў перакладзе з расейскай на нямецкую мову.

Яскравай ілюстрацыяй стану нямецкага зацікаўленьня беларускай праблематыкай у дагітлераўскі пэрыяд можа паслужыць дзейнасьць Брэслаўскага інстытуту Ўсходняй Эўропы. Аж па 1927 г. уключна ў выдаваных гэтым інстытутам “Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven” не зьявілася літаральна аніводнай распрацоўкі, нават бібліяграфічнай нататкі, што датычыла б Беларусі. У 1928—1935 г., г.зн. да канца выданьня “Jahrbücher...”, у іх апублікавана 3 артыкулы, 4 інфармацыі і каля 40 рэцэнзіяў, прысьвечаных пытаньням беларускай гісторыі, літаратуры, культуры і эканомікі. Апрача дзьвюх нататкаў–рэцэнзіяў нямецкай аўтаркі Эмы Гертэль, усе астатнія матэрыялы былі апрацаваныя беларусамі, галоўным чынам Уладзімерам Самойлам і Антонам Луцкевічам.

Беларускае пытаньне не набыло ў Нямеччыне большага значэньня таксама і пасьля прыходу да ўлады ў 1933 г. нацыянал–сацыялістаў. Дарма што адной з найважнейшых мэтаў палітыкі трэцяга райху стаў антыкамунізм і зьнішчэньне савецкай дзяржавы, да 1940 г. у Нямеччыне не было распрацавана аніякіх праграмаў разьдзяленьня СССР[79]. Праўда, беларускім і ўкраінскім пытаньнем у Польшчы цікавіліся некаторыя партый-

---

[76] Рапальская дамова паміж РСФСР і Нямеччынай была падпісана 16 красавіка 1922 г. і прадугледжвала аднаўленьне дыпляматычных стасункаў паміж дзьвюма краінамі, бакі адмаўляліся ад узаемных фінансавых прэтэнзіяў, надаваўся статус найбольшага спрыяньня двухбаковым гандлёва–эканамічным зносінам, а таксама прадугледжвалася супрацоўніцтва ў вайсковай сфэры. На іншыя савецкія рэспублікі, у тым ліку і БССР, дзеяньне дамовы пашырылася 5 лістапада 1922 г.

[77] Engelhardt. Weissruthenien... S. 164.

[78] Апрача кнігі В. Егера “Weissruthenien...”, у 1918 г. ува Ўроцлаве (Брэслаў) быў выдадзены падручнік беларускай мовы, апрацаваны немцам Рудольфам Абіхтам і беларусам Янам Станкевічам, пад назваю “Просты спосаб у кароткім часе стацца граматным”.

[79] Jacobsen H. A. Misstrauische Nachbarn. Deutsche Ostpolitik 1919—1970. Düsseldorf, 1970. S. 72—73.

ныя інстанцыі, дзяржаўныя органы і вайсковая выведка, але іх погляды на гэту справу розьніліся паміж сабой і не адлюстроўвалі палітыкі, напрамкі якой вызначаў Адольф Гітлер. Пра гэта сьведчыць і адкінуты праект, прапанаваны ў чэрвені 1938 г. Альфрэдам Розэнбэргам, аб стварэньні партыйна–дзяржаўнага органа для адзінай, суцэльнай апрацоўкі і ацэнкі праблемаў Усходу, зьвязаных з бальшавізмам, і забесьпячэньня ў гэтай галіне плянавай палітычнай лініі[80].

У гэтым адыграла сваю ролю канкрэтная геапалітычная сытуацыя. Агрэсіўныя намеры гітлераўскай Нямеччыны да СССР не маглі ажыцьцявіцца без супрацоўніцтва з Польшчай або без папярэдняга вываду яе з гульні як дзяржавы дзеля здабыцьця беспасярэдняга кантакту з СССР. Пачынаючы з 1935 г. Гітлер ня раз спрабаваў схіліць польскі ўрад да сумеснага паходу на СССР, мэтай якога было б, між іншым, заняцьце Украіны і Беларусі. Пры такім варыянце абрысоўвалася даволі спэцыфічная канцэпцыя паводзінаў ува ўкраінска–беларускім пытаньні, пэўную ролю ў якой павінна была адыграць Польшча. Апошні раз гэтая прапанова згадвалася Гітлерам у студзені 1939 г. у часе сустрэчы зь міністрам замежных справаў Юзафам Бэкам, аднак польскі ўрад на яе не пагадзіўся. У гэтай сытуацыі праблема Украіны і Беларусі на пэўны час зьнікла з палітычнага далягляду Нямеччыны. Гэта выявілася ў падпісаньні савецка–нямецкага пакту ад 23.8.1939 г., у якім акрэсьліваліся інтарэсы абедзьвюх дзяржаваў у Польшчы: усе заходнебеларускія, заходнеўкраінскія і нават некаторыя этнічна польскія землі былі пакінуты ў зоне інтарэсаў СССР[81].

Пры такой сытуацыі ў пэрыяд з 1933 па 1939 г. дзейнасьць прыхільнікаў разьдзяленьня СССР, асабліва Розэнбэрга і падначаленага яму ведамства замежнай палітыкі Нацыянал–сацыялістычнай рабочай партыі Нямеччыны, ня мела посьпеху і не набыла вялікага пашырэньня. Варта, аднак, прыгадаць спробы іх узьдзеяньня на беларускія асяродкі ў Польшчы. Ужо летам 1933 г. гэтае ведамства завязала кантакт з Фабіянам Акінчыцам — ідэолягам і правадыром невялікай групы беларускіх нацыянал–сацыялістаў[82]. Пры падтрымцы ведамства гэтая група распачала ў лістападзе 1933 г. у Вільні выданьне часопіса “Новы шлях”. Амаль адначасова ў Бэрліне (напэўна, з ініцыятывы Акінчыца) быў створаны Саюз беларускіх студэнтаў у Нямеччыне[83]. Але гэтыя спробы не прыносілі спадзяваных вынікаў. Так, Саюз беларускіх студэнтаў дзеля невялікай колькасьці беларусаў у нямецкіх навучальных установах ня змог разгарнуць шырокай дзейнасьці, а тыраж “Новага шляху” не перавышаў 500 асобнікаў, што гаварыла пра яго невялікую папулярнасьць.

Таксама безвыніковымі былі спробы Акінчыца па стварэньні на заходнебеларускіх землях беларускай партыі нацыянал–сацыялістаў. Прычынамі былі адсутнасьць шырокай падтрымкі фашысцкага руху з боку грамадзкасьці, а таксама абмежаваньні, што накладаліся на гэты рух польскімі адміністрацыйнымі ўладамі, якія не без падставаў падазравалі ў ім гітлераўскую агентуру. У выніку, Акінчыц у кастрычніку 1936 г. не атрымаў дазволу ўладаў на скліканьне зьезду беларускіх нацыянал–сацыялістаў[84], а на пачатку 1937 г. дзейнасьць гэтай групы была практычна забаронена. Адначасова забаронена было і выданьне часопіса “Новы шлях”. Ацэньваючы дзейнасьць групы беларускіх нацыянал–сацыялістаў, Энгельгарт пісаў яшчэ ў час вайны, што яна ня мела значэньня.

---

[80] Ibidem. S. 72.

[81] Akten zur deutschen auswärtigen Politik 1918—1945 // Seria D, Baden–Baden. 1956, Bd. 7. S. 205—207; 1961, Bd. 8, S. 127—129.

[82] Акінчыц Ф. (20.1.1886 — сакавік 1943), адвакат, палітычны дзяяч, з 1906 г. — у партыі эсэраў, у 1925—1927 гг. — у БСРГ, з 1933 г. — лідэр беларускіх нацыянал–сацыялістаў, прыхільнік супрацоўніцтва з трэцім райхам, загінуў у часе замаху, арганізаванага ў Менску.

[83] Найдзюк Я. Беларусь учора і сяньня. Менск, 1944. С. 249; Engelhardt. S. 216.

[84] Новы шлях. 1936. 30 кастрычніка.

Зацікаўленасьць беларускай праблематыкай выяўлялі таксама нямецкія навукова–дасьледчыя цэнтры. У 1937 г. ёю заняўся Нямецкі інстытут вывучэньня замежных праблемаў пры Бэрлінскім унівэрсытэце, у якім быў створаны беларускі сэктар разам зь бібліятэкай. Вывучэньнем беларускага пытаньня кіраваў прафэсар Гергард фон Мэндэ. Улетку 1937 г. разам зь некалькімі студэнтамі ён наведаў Вільню, дзе закупіў немалую колькасьць беларускіх кніжак для інстытуцкай бібліятэкі і правёў размовы зь беларускімі дзяячамі[85]. Беларускім пытаньнем заняўся таксама Бэрлінскі інстытут вывучэньня граніц і замежных краінаў. Вынікі дзейнасьці абодвух інстытутаў прызначаліся, верагодна, для службовага карыстаньня, пра што сьведчыць мізэрная колькасьць публікацыяў іх працаў[86].

Супрацоўніцтва з групай Акінчыца, дасьледаваньні і кантакты зь беларускімі дзяячамі ў Вільні выяўлялі імкненьні Розэнбэрга стварыць на тэрыторыі Заходняй Беларусі палітычны пляцдарм для заплянаванага нападу на СССР. З гэтымі ж самымі мэтамі яшчэ больш шырокая падтрымка аказвалася заходнеўкраінскім арганізацыям і групоўкам. Спашлёмся на выказваньне Арно Шыкеданца, шэфа штабу Розэнбэрга, які пісаў у сваім мэмарыяле ад 14.6.1939 г. начальніку канцылярыі райху Гансу Лямэрсу наступнае:

> ... Абсалютна ня выключана, што ў выпадку нямецка–польскага канфлікту саветы пад выглядам узброенай дапамогі Польшчы зоймуць гэтыя землі (заходнебеларускія і заходнеўкраінскія. — *Ю.Т.*), каб застацца ў іхніх межах. Пры такім новым падзеле Польшчы Вялікая Нямеччына страціла б, напэўна, найбольш абяцальныя пэрспэктывы разьдзяленьня Расеі, тады як адцягнуўшы ўвагу саветаў на пэўны час ад сумежных дзяржаваў, Нямеччына атрымала б немалую карысьць... Землі зь беларускім і заходнеўкраінскім насельніцтвам мелі б неацэннае значэньне як асяродкі і базы для глыбокага расколу Расеі... Гэта быў бы найбольш адпаведны момант для таго, каб увесьці абодва гэтыя народы ў арбіту нямецкіх інтарэсаў для адпору Расеі...[87]

Мэмарыял Шыкеданца толькі нязначна апярэдзіў падпісаньне савецка–нямецкага пакту, што сьведчыла аб адсутнасьці каардынацыі паміж буйнейшымі дзяячамі трэцяга райху ў галіне ўсходняй палітыкі, а таксама аб тым, што канцэпцыі Розэнбэрга і яго супрацоўнікаў ня мелі істотнага ўплыву на рашэньні Гітлера. Заключэньне гэтага пакту было для Розэнбэрга нечаканасьцю і шокам. 25.8.1939 г. ён пісаў у сваім дзёньніку:

> Як жа мы можам яшчэ гаварыць аб ратаваньні і фармаваньні Эўропы, калі вымушаны прасіць дапамогі ў разбуральнікаў Эўропы?.. І калі мы вымушаны яшчэ перадаць Савецкаму Саюзу тэрыторыю польскай Украіны, дык гэта пасьля Карпацкай Украіны другі з нашага боку ўдар, скіраваны ў самую вялікую антымаскоўскую сілу[88].

Сапраўдны кірунак усходняй палітыкі трэцяга райху было цяжка прадказаць нават

[85] Chryścjanskaja Dumka. 15.8.1937; 20.9.1937; Шлях Моладзі. 1937. Жнівень.
[86] Scheibert P. Die Weissruthenische politische Gedanke bis 1919 // Jomsburg, 1938. Heft 3. S. 335; Der Weg der Weissruthenien zur weissruthenischen Sowjetrepublik // Jomsburg, 1940. Heft 1—4, S. 191; Engelhardt von E. Die Weissrussen und die Viervölkerecke von Augustowo–Wystiten // Aus dem Nahen Osten. Privatdruck des Instituts für Grenz– und Auslandstudien. Berlin, 1940. Напэўна, ужо тады Энгельгарт распачаў сваю вялікую працу “Weissruthenien Volk und Land”, якая была завершана ў пачатку 1942 г. і выйшла ў сьвет у 1943 г.
[87] Das politische Tagebuch Alfred Rosenbergs aus den Jahren 1934/35 und 1939/40. Götingen—Berlin—Frankfurt, 1956. S. 144—145.
[88] Ibidem. S. 75—76.

сярод такіх тузоў, як Розэнбэрг і Шыкеданц. У гэтай сытуацыі ня так лёгка было маніпуляваць адрасаванай беларусам нямецкай прапагандай. “Новы шлях” — адзіны яе рупар на Беларусі — займаўся найбольш праблемамі грамадзка–гаспадарчай мадэлі нацыянал–сацыялізму, не закранаючы пытаньня стаўленьня трэцяга райху да беларускай дзяржаўнасьці. Напэўна, гэтая акалічнасьць стала адной з галоўных прычын палітычнага банкруцтва Акінчыца. Усе астатнія заходнебеларускія арганізацыі і палітычныя групоўкі ставіліся да фашысцкай прапаганды абыякава або варожа. Гэта датычыла ня толькі КПЗБ (распушчанай Камінтэрнам у жніўні 1938 г.) і кіраваных камуністамі легальных левых арганізацыяў, але і цэнтрысцкага, з народнафронтаўскімі тэндэнцыямі Беларускага народнага аб’яднаньня (БНА) і нават даволі актыўнай нацыяналістычнай групоўкі на чале з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім, што гуртавалася вакол штотыднёвіка “Беларускі Фронт”.

У 1936—1937 г. “Беларускі Фронт” шмат разоў выступаў адначасова і супраць камунізму, і супраць фашызму, даводзячы, што ніводзін з гэтых кірункаў “не нясе беларускаму народу незалежнасьці і сувэрэннасьці, але нясе яму залежнасьць і палітычную і эканамічную; і імкненьне да фізычнага і духоўнага зьнішчэньня беларускага народу, нясе няволю”[89]. Падобныя погляды прапаведаваў орган студэнцкай групоўкі прыхільнікаў Гадлеўскага — часопіс “25 сакавіка”, які акрэсьліваў фашызм як ворага беларускага народу[90]. Рашуча выказвала антыфашысцкія тэндэнцыі прэса БНА — “Chryścjanskaja Dumka” і “Шлях Моладзі”.

Новыя тэндэнцыі ў беларускай віленскай прэсе пачынаюць назірацца ў 1938—1939 г. Адбываецца гэта пад уплывам абвастрэньня палітычнай сытуацыі ў Эўропе (асабліва пасьля далучэньня Аўстрыі і падзелу Чэхаславаччыны), а таксама зьвязанай з гэтымі падзеямі гітлераўскай прапаганды, якая выстаўляла трэці райх абаронцам інтарэсаў малых народаў і нацыянальных меншасьцяў. Немалое ўражаньне пры гэтым аказвалі чуткі аб рэгістрацыі ў Нямеччыне ўкраінцаў і беларусаў, пры якой ставіліся пытаньні адносна іх вайсковай кваліфікацыі і маёмасьці, канфіскаванай савецкімі ўладамі[91]. Адначасова ў нямецкай прэсе зьявіліся паведамленьні пра дыскрымінацыйныя дзеяньні польскай улады ў адносінах да беларускага насельніцтва[92]. Стваралася ўражаньне зацікаўленасьці немцаў беларускім пытаньнем. Усё гэта падмацоўвалася паведамленьнямі польскага друку аб падтрымцы, якую немцы нібыта аказвалі справе беларускай дзяржаўнасьці, аб уцягваньні беларусаў у калясьніцу нямецкай палітыкі. Асабліва красамоўныя былі данясеньні прэсы пра зьезд беларускіх дзяячоў з Польшчы, СССР, ЗША, Літвы і Эстоніі, які нібыта адбыўся ў чэрвені 1939 г. у Гданьску, каб разгледзець і падтрымаць прапанаваны нямецкім урадам плян стварэньня незалежнай беларускай дзяржавы[93].

Сэнсацыі ў друку, якія ня мелі нічога супольнага з сапраўднымі плянамі бэрлінскага ўраду, паўтараліся беларускай прэсай, абуджаючы надзеі розных палітычных групаў на вырашэньне немцамі пытаньня беларускай дзяржаўнасьці. “Беларускі Фронт”, які яшчэ ў 1937 г. адхрышчваўся ад фашызму, на пачатку 1939 г. зьмяніў свой палітычны кірунак. У чэхаславацкіх падзеях орган ксяндза Гадлеўскага бачыў “практычную рэалізацыю прынцыпу самавызначэньня нацыяў, якую ў найчысьцейшай форме прадэманстравала Нямеччына”[94]. Газэта выказвала ўхвалу гітлераўскаму прынцыпу “ўлады правадыра” і ўсё часьцей зьвяртала ўвагу на зацікаўленьне Нямеччыны беларускім пытань-

[89] Беларускі Фронт. 1937. 5 лютага.
[90] 25 сакавіка. 1936. Верасень.
[91] Беларускі Фронт. 1935. 1 студзеня; 1939. 15 студзеня; Chryścjanskaja Dumka. 1.2.1939.
[92] Беларускі Фронт. 1939. 1 лютага.
[93] Kurjer Polski. 22.6.1939.
[94] Беларускі Фронт. 1939. 15 студзеня.

нем у кантэксьце яе пляну зьнішчэньня і разьдзяленьня СССР. “На наш погляд, — пісаў “Беларускі Фронт”, — расчляненьня або падзелу Расеі на паасобныя нацыянальныя дзяржавы баяцца няма чаго: гэта ёсьць натуральны працэс нашых часоў”[95].

Больш крытычна і цьвяроза ацэньвала сытуацыю прэса Беларускага народнага аб’яднаньня, аднак і яна не хавала задавальненьня з уяўных нямецкіх плянаў. У канцы 1938 г. “Chryścjanskaja Dumka” пісала ўва ўступным артыкуле “Нямецкія імкненьні і беларусы”:

> Апошнімі часамі Нямеччына вельмі цікавіцца Ўсходняй Эўропай — СССР, дзе распаложаны Ўкраіна і Беларусь... ня дзеля таго, што хоча памагчы ўкраінцам і беларусам збудаваць сваю дзяржаву, але дзеля таго, што гэтым спадзяецца развaліць СССР, адчыніць для свайго промыслу вялікі рынак збыту і дабрацца да хлебнага багацьця Ўкраіны ды ляснога багацьця Беларусі... Гэта, аднак, ня значыць, што беларусы павінны ўжо цяпер баяцца нямецкіх плянаў і ўжо цяпер зь імі змагацца. Не! Трэба толькі ведаць, што няма нікому бескарыснай помачы і што найкарысьнейшая толькі ўласная сіла.
> Дзеля гэтага ня можна сьлепа захапляцца Гітлерам, ані іншымі дабрадзеямі, бо кожны добры, але сьпярша для сябе, а пасьля для другога[96].

Падобны тэкст быў зьмешчаны і ў “Шляху Моладзі” і дапоўнены высновай, што “для беларусаў з усяго гэтага важна перадусім тое, што беларуская справа, беларуская праблема становіцца праблемай міжнароднай”[97].

Гэтыя спэкуляцыі не выклікалі шырокага водгуку сярод народных масаў ня толькі ўва Ўсходняй Беларусі, куды яны звычайна не трапляли, але і ў заходняй частцы краю, нягледзячы на паўсюднае незадавальненьне грамадзка–эканамічнай палітыкай польскага даверасьнёўскага ўраду. Ацэньваючы пазыцыю беларускай вёскі, “Беларускі Фронт” напярэдадні другой сусьветнай вайны пісаў, што “пры першай магчымасьці людзі кінуліся б у абоймы кожнаму, хто шчыра ці няшчыра задэкляраваў бы лепшую долю; камуністы маюць уплыў, але пры ведамым прымітывізьме нашай вёскі такі самы ўплыў маглі б мець фашысты і нават манархісты”[98]. Ацэнка гэтая была небеспадстаўная, аднак у тагачасных умовах хлеб і зямлю абяцалі толькі камуністы. Гэта прадвызначала сымпатыі большай часткі сялянства да бальшавізму і СССР, якія выразна выявіліся пры ўступленьні Чырвонай Арміі ў верасьні 1939 г. Не адмаўлялі гэтага і аўтары, якіх нельга падазраваць у прасавецкіх тэндэнцыях[99].

Затое розьнілася стаўленьне беларускай інтэлігенцыі, асабліва палітычных і грамадзкіх дзяячоў. У гэтых колах ведалі ў агульных рысах аб трагічных падзеях у БССР у трыццатых гадох, зьвязаных галоўным чынам з прымусовай калектывізацыяй і барацьбой з “нацдэмаўшчынай”. Вынікам іх былі шматлікія людзкія ахвяры, у т.л. сярод найвыдатнейшых беларускіх дзяячоў палітыкі і прадстаўнікоў навукі і культуры, а таксама зьнішчэньне гістарычных каштоўнасьцяў і інтэлектуальных здабыткаў дваццатых гадоў. З другога боку, заняцьце Чырвонай Арміяй усходняй часткі польскай дзяржавы азначала ўзьяднаньне ўсіх беларускіх земляў у адной савецкай рэспубліцы, супраць чаго не выступаў ніводзін беларускі нацыяналіст. Бо гэта азначала рэалізацыю многіх беларускіх пастулятаў — эканамічных, моўных, культурна–асьветных, якія ігнараваліся ў

[95] Тамсама. 1939. 1 студзеня.
[96] Chryścjanskaja Dumka. 10.12.1938.
[97] Шлях Моладзі. 1938. 8 сьнежня.
[98] Беларускі Фронт. 1939. 1 лютага.
[99] Scheibert P. Zur politischen Entwicklung des Weissruthenientums // Jomsburg. Sonderdruck, Berlin, 1941. S. 28; Vakar N. Belorussia. The Making of a Nation. Harward University Press. Cambridge, Massachusetts, 1956. P. 156.

міжваенную пару польскімі ўладамі. Такім чынам, зьнікалі ранейшыя спрэчкі і партыйныя падзелы, замест якіх зьяўляліся новыя, іх адзіным найважнейшым крытэрам было стаўленьне да савецкай рэчаіснасьці. Тыя, хто яе прымаў, заставаліся ў верасьні 1939 г. на месцы або варочаліся на землі, занятыя савецкімі войскамі, а тыя, хто разьлічваў на падтрымку Нямеччыны ў справе беларускай дзяржаўнай незалежнасьці або прадчуваў асабістую пагрозу, накіроўваліся ў зону нямецкай акупацы ці ў Літву.

Неўзабаве, аднак, зьявіліся першыя расчараваньні. Новыя савецкія ўлады давалі сялянам зямлю, адкрывалі грамадзкія пэрспэктывы, уздымалі беларускую мову да статусу дзяржаўнай, уводзілі яе ў школах і друкавалі на ёй газэты, але адначасова пачалі фізычную ліквідацыю вядомых дзяячоў беларускага нацыянальнага руху. Гэта абуджала сярод беларускай інтэлігенцыі няпэўнасьць у сваёй будучыні, стварала адчуваньне, што курс пачатку трыццатых гадоў у палітыцы БССР працягваецца, і руйнавала надзеі на пазытыўнае стаўленьне савецкіх уладаў да беларускага нацыянальнага пытаньня.

Новая сытуацыя ўтварылася пасьля перадачы Вільні і заходняй Віленшчыны савецкімі ўладамі Літве ў канцы кастрычніка 1939 г. Гэты горад зноў, цяпер усяго на восем месяцаў, становіцца асяродкам, які зьбірае вакол сябе беларускіх дзяячоў. З Коўны вярнуўся ксёндз Гадлеўскі, які ўзнавіў дзейнасьць сваёй групоўкі. Заставаліся тут ксёндз Адам Станкевіч, прафэсар Вацлаў Іваноўскі, Янка Станкевіч, Францішак Аляхновіч, Язэп Найдзюк і інш. Была адноўлена арганізацыйная і выдавецкая дзейнасьць. Зноў аналізавалася сытуацыя і пэрспэктывы яе разьвіцьця. Істотна ўплывала на афармленьне такіх ацэнак далейшае абвастрэньне палітычнага становішча ў Эўропе ў канцы 1939 г. і ў пачатку 1940 г., асабліва напад СССР на Фінляндыю, Нямеччыны — на Данію і Нарвэгію, як і наступ немцаў на францускім фронце. Гэта сьведчыла аб эскаляцыі вайны, у якой савецка–нямецкі канфлікт здаваўся непазьбежным.

Перад пагрозай гэтага канфлікту, а таксама з горкага досьведу назіраньня за дзейнасьцю савецкіх уладаў, шмат дзяячоў зь віленскага асяродзьдзя на чале з Гадлеўскім вырашылі перайсьці ў зону нямецкай акупацыі арганізаваным шляхам, атрымаўшы папярэднюю згоду нямецкага консульства ў Коўне перад самым 15.6.1940 г., гэта значыць, перад уваходам Чырвонай Арміі ў Прыбалтыку[100]. Частка эмігрантаў пазьбягала такім чынам савецкіх рэпрэсіяў, але большасьць разьлічвала на падтрымку незалежніцкай дзейнасьці з боку Нямеччыны. У Вільні засталося, аднак, нямала дзяячоў, галоўным чынам чальцоў Беларускага народнага аб'яднаньня (між іншым, кс. А. Станкевіч, С. Грынкевіч–старэйшы, А. Клімовіч), а таксама В. Іваноўскі, якія ня зьвязвалі сваіх палітычных плянаў з трэцім райхам[101].

### Напярэдадні нападу гітлераўскай Нямеччыны на СССР

Апрача эмігрантаў, на тэрыторыі Нямеччыны апынулася пэўная колькасьць беларусаў, якія служылі ў польскай арміі і ў верасьні 1939 г. трапілі ў нямецкі палон. Апроч таго, на акупаваных немцамі тэрыторыях, галоўным чынам у Варшаве, Лодзі і Празе, здаўна існавалі невялікія асяродкі беларусаў. Для таго, каб іх зарэгістраваць, а таксама наладзіць апеку і пасярэдніцтва ў найме на працу, у лістападзе 1939 г. у Бэрліне было створана пры міністэрстве ўнутраных справаў *Weissruthenische Vertauenstelle*, папросту называнае Беларускім прадстаўніцтвам. Амаль адначасова (3.12.1939 г.) для беларусаў, што знаходзіліся ў Нямеччыне і на тэрыторыі нямецкай акупацыі, пачалося выданьне штотыднёвіка "Раніца". Кіраўніком Беларускага прадстаўніцтва быў прызнача-

[100] Пануцэвіч В. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі — дзяржаўны муж і правадыр народу // Беларуская Царква. 1965. № 28. С. 72—73.

[101] Туронак Ю. Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944). С. 464—484 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

ны Акінчыц, які перад самай вайной прыехаў у Бэрлін, а пасьля ягонага скорага звальненьня гэтую функцыю да канца вайны выконваў Анатоль Шкутка. Установа мела некалькі сваіх рэгіянальных аддзяленьняў.

Летам 1941 г. беларусы, якія знаходзіліся ў Бэрліне, атрымалі згоду на стварэньне грамадзкай арганізацыі — Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, — старшынём якой стаў былы консул БНР у Бэрліне А. Бароўскі. Адначасова былі адкрыты аддзяленьні Камітэту ў Познані і Лодзі, а пазьней — у Мюнхэне, Ляйпцыгу, Празе, Торуні і інш. Незалежна ад БКС у Нямеччыне ў студзені 1940 г. быў створаны Беларускі камітэт у генэральным губэрнатарстве зь сядзібай у Варшаве і двума аддзяленьнямі — у Белай Падляскай і Кракаве. Статутнай мэтай гэтых арганізацыяў было грамадзкае забесьпячэньне (галоўным чынам — сталоўкі) і культурна–асьветная дзейнасьць, між іншым, арганізацыя аматарскіх мастацкіх калектываў, лекцыяў і бібліятэк. У Варшаве чальцы Беларускага камітэту атрымлівалі харчовыя карткі лепшай катэгорыі, чым большасьць польскага насельніцтва, таму ў яго шэрагах апынулася нямала палякаў[102].

На базе гэтых арганізацыяў утварылася некалькі згуртаваньняў, якія адлюстроўвалі палітычны расклад сілаў перад верасьнем 1939 г. Агульнай рысай гэтых групаў было жаданьне выступаць у ролі прадстаўнікоў беларускага народу і патэнцыйных палітычных партнэраў Нямеччыны і навязаць нямецкім уладам аптымальныя, на іх погляд, рэцэпты вырашэньня беларускага пытаньня пасьля спадзяванага разгрому СССР. Групы гэтыя імкнуліся здабыць у немцаў прызнаньне і падтрымку, разьлічваючы дасягнуць галоўнага палітычнага ўплыву ў Беларусі пасьля таго, як яе зоймуць нямецкія войскі. Разьвілася своеасаблівая канкурэнцыя за права выкарыстаньня найбольш абяцальных магчымасьцяў у апараце трэцяга райху. Стаўкі былі розныя, бо аніводная нямецкая партыйная, вайсковая або ўрадавая інстанцыя ня ў стане была ясна выказацца наконт будучага лёсу Беларусі.

Рана распачаў такую дзейнасьць доктар Іван Ермачэнка[103] — галоўны дзяяч беларускага асяродзьдзя ў Празе. Там ён прыцягнуў да супрацоўніцтва старога Васіля Захарку — сымбалічнага лідэра БНР у эміграцыі, спадзеючыся такім чынам надаць сваім пачынаньням характар гістарычнай пераемнасьці. Пасьля заняцьця Чэхіі нямецкімі войскамі 20.4.1939 г. Гітлеру быў пасланы мэмарыял, апрацаваны Ермачэнкам і падпісаны Захаркам. З фрагмэнтаў, апублікаваных Васілём Рамаmake, вынікае, што аўтар мэмарыялу зьвяртаўся да Гітлера з просьбай прыняць пад увагу беларускае пытаньне ў плянаваным разгроме і разьдзяленьні СССР. Мэмарыял гэты ня быў праігнараваны, пра што сьведчаць пазьнейшыя размовы Ермачэнкі і Захаркі з былым нямецкім амбасадарам у Празе Андарам фон Генке летам 1939 г. У выніку, беларускіх дзяячоў запрасілі 3.8.1939 г. на канфэрэнцыю ў міністэрстве замежных спраў у Бэрліне, дзе іх запэўнілі, што Нямеччына

[102] Па зьвестках "Раніцы" (1942. 22 сакавіка), у пачатку 1942 г. колькасьць сяброў Беларускага камітэту ў Варшаве складала амаль 6000. Мікола Ждановіч, былы сябра кіраўніцтва Камітэту, пацьвердзіў гэты факт у сваім паведамленьні, зробленым для аўтара 12.3.1977 г. Аднак колькасьць беларусаў у Варшаве ў 1940 г. складала ўсяго толькі каля 1000 чалавек, пра што даносіў Акінчыц у сваім рапарце ў *Oststelle NSDAP* 1.11.1940 г. // AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–81, rolka 13, EAP–18–10/4. На думку Ждановіча, кіраўніцтва Камітэту мірылася з такой сытуацыяй, бо ад колькасьці сяброў залежалі памеры фінансаваньня, выдзяленьне харчовай дапамогі і інш.

[103] Іван Ермачэнка нарадзіўся 1.5.1894 г. у Капачоўцы Барысаўскага павету, скончыў гімназію ў Маскве, потым, у часе першай сусьветнай вайны, афіцэрскую школу, служыў у расейскім войску, пад канец вайны быў ад'ютантам генэрала Ўрангеля, меў ранг палкоўніка. У 1920 г. эвакуаваўся ў Канстантынопаль, дзе з даручэньня ўраду БНР выконваў функцыі генэральнага консула на Балканах. У 1922 г. пераехаў у Прагу. Тут атрымаў мэдычную адукацыю (1929), займаўся лекарскай практыкай і палітычнай дзейнасьцю сярод беларускай эміграцыі. З 1938 г. — прыхільнік беларуска–нямецкага супрацоўніцтва. Пасьля другой сусьветнай вайны жыў у эміграцыі ў ЗША. Памёр 25.2.1970 г.

супрацьстаіць канцэпцыі "адзінай і непадзельнай Расеі"[104]. На гэтай канфэрэнцыі Ермачэнка і Захарка прадставілі сваю праграму беларуска–нямецкага супрацоўніцтва[105].

Ермачэнка ў 1940—1941 г. займаўся арганізацыяй беларускіх лекараў у Нямеччыне ў супрацоўніцтве з доктарам Вагнэрам, які ў сярэдзіне 1941 г. заняў у міністэрстве акупаваных усходніх земляў пасаду загадчыка аддзелу, што сачыў за дзейнасьцю аддзяленьняў самапомачы на акупаваных землях СССР. Адначасова Ермачэнка працягваў кантакт з прафэсарам Мэндэ, маючы зь ім "частыя размовы наконт гісторыі і становішча на Беларусі"[106]. Прафэсар таксама заняў высокую пасаду ў міністэрстве Розэнбэрга. Гэтыя сувязі судзеялі будучай кар'еры Ермачэнкі.

Фабіян Акінчыц у сваю чаргу рабіў стаўку на партыю нацыянал–сацыялістаў і падтрымліваў кантакт зь яе ўсходнім аддзелам. Аднак шанцы яго паступова слабелі. Няўдалая спроба стварэньня беларускай партыі нацыянал–сацыялістаў, а таксама фіяска яго праекту па фармаваньні дывэрсійнай групы ў тыле нямецка–польскага фронту зрабілі яму славу афэрыста. У Акінчыца сярод беларускай эміграцыі было мала прыхільнікаў. Гэта стала адной з прычынаў распаўсюджваньня ягонай не найлепшай рэпутацыі. Таму неўзабаве пасьля прызначэньня на пост кіраўніка Беларускага прадстаўніцтва яго звольнілі і адсунулі на задні плян. Вясной 1940 г. Акінчыц узначаліў Беларускі камітэт у Варшаве, адсунуўшы з пасады ранейшага яго старшыню, доктара Мікалая Шчорса, аднак ужо ў сярэдзіне 1940 г. вымушаны быў пакінуць Варшаву. Сталася гэта пасьля ўмяшаньня ў справу варшаўскай службы бясьпекі (СД), якая вярнула Шчорса на ранейшае месца, бо, на думку былых кампэтэнтных дзеячоў Камітэту, "Шчорс хоць нешта зь сябе ўяўляў, у той час як Акінчыц — нічога"[107].

У Бэрліне пры канцы 1940 і на пачатку 1941 г. Акінчыц пісаў ува ўсходні аддзел нацысцкай партыі даносы шмат на каго зь беларускіх эміграцыйных дзеячоў, рабіў прапановы іх выцясьненьня і замены сваімі людзьмі. У сваім рапарце ад 1.11.1940 г. ён прапанаваў, між іншым, праект заданьняў для беларускіх нацыянал–сацыялістаў, у якім прадугледжвалася:

— арганізацыя курсаў для падрыхтоўкі будучых палітыкаў, адміністрацыйных дзеячоў, публіцыстаў і журналістаў;

— перанавучаньне ваеннапалонных беларускай нацыянальнасьці;

— арганізацыя курсаў ваеннай падрыхтоўкі, шпіёнскай і прапагандысцкай дзейнасьці супраць савецкай Беларусі, адпраўка перавучаных кадраў на тэрыторыю СССР для тэрарыстычных і сабатажных мэтаў[108].

Праект Акінчыца, напэўна, ня быў адкрыцьцём для нямецкіх органаў, аднак ён судзейнічаў яго прызначэньню. У пачатку 1941 г. яму даручылі назіраньне за лягерамі польскіх ваеннапалонных і вэрбоўку тутэйшых беларусаў. Акінчыцу было даверана кіраўніцтва т.зв. курсамі прапагандыстаў пад Бэрлінам, дзе праходзілі навуку "ідэалягічныя кіраўнікі" для працы на Беларусі. Гэта была т.зв. школа Акінчыца, выхаванцы якой ("маладыя актывісты") павінны былі рыхтаваць падмурак да рэалізацыі яго палітычных плянаў на Беларусі.

Трэцяе згуртаваньне прадстаўляў малады лекар Мікалай Шчорс, актыўны дзеяч Беларускага студэнцкага саюзу 30–х г. у Вільні, яго некалькігадовы старшыня, ідэалягічны паплечнік кс. Гадлеўскага. У гэтую групоўку ўваходзілі многія дзеячы ў Варшаве (кс. Вінцэнт Гадлеўскі, кс. Пётар Татарыновіч, Часлаў Ханяўка, Мікалай Ждановіч, Баляс-

---

[104] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 21.

[105] Ліст Ермачэнкі да Розэнбэрга, 17.1.1944. AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/1000.

[106] Тамсама.

[107] Інфармацыя, атрыманая аўтарам ад Міколы Ждановіча (12.7.1983) і Баляслава Манкевіча (29.3.1983).

[108] Данясеньні Акінчыца ў *Oststelle NSDAP.* 1.11.1940 і 10.1.1941. AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–81, r. 13, EAP–250 d–18–10/4.

лаў Манкевіч, Барыс Стрэльчык, Пётар Ластаўка і інш.), у Бэрліне (Мікалай Шкялёнак, Анатоль Шкутка, С. Грынкевіч–малодшы, Мікола Абрамчык і іншыя), у Лодзі (Вітаўт Тумаш) і ў іншых асяродках. Галоўным ідэолягам гэтай групы быў Гадлеўскі, які выступаў як прадстаўнік Беларускага нацыянальнага фронту. У Варшаве ён выдаў палітычную праграму згуртаваньня, яна распаўсюджвалася сярод беларусаў Нямеччыны, генэральнага губэрнатарства, Чэхаславаччыны і Францыі. Чальцы гэтай групы займалі пераважную частку кіраўнічых пасад у беларускіх камітэтах, яны ж былі ядром рэдакцыйнага калектыву “Раніцы”[109].

19.6.1941 г. галоўныя дзяячы гэтай групы стварылі ў Бэрліне арганізацыю пад назвай “Цэнтар”, якая фармальна прэтэндавала на ролю кіраўніка, плянавальніка і каардынатара дзейнасьці беларускай эміграцыі ў Нямеччыне і генэральным губэрнатарстве. Старшынём “Цэнтру” стаў Шчорс, а яго сябрамі — Ханяўка, Гадлеўскі, Шкялёнак, Шкутка і Тумаш[110]. Аднак стварэньне “Цэнтру” ледзь не за пару дзён да нападу на СССР сьведчыла, што яго галоўнай мэтай была ня дзейнасьць сярод эміграцыі, а каардынацыя працы па ходу заняцьця немцамі беларускіх земляў. Такім чынам, гэта быў орган, які ў спрыяльных умовах зьбіраўся абвесьціць сябе часовым урадам Беларусі. Паводле паведамленьня Ждановіча, блізкага супрацоўніка Шчорса, разьмеркаваньне пасад у гэтым урадзе было прадугледжана загадзя, яго ядро павінны былі скласьці сябры “Цэнтру”.

У адрозьненьне ад Ермачэнкі і Акінчыца, група Шчорса для рэалізацыі сваіх мэтаў арыентавалася на вайсковыя колы (Абвэр) і СД. Іх лёгіку лёгка зразумець: беларускія землі зоймуць нямецкія войскі і неадкладнае стварэньне беларускага часовага ўраду стане фактам, які будзе адбівацца на далейшых паводзінах акупацыйных уладаў. З гэтага гледзішча тактыка Шчорса, Гадлеўскага і іх паплечнікаў ня розьнілася ад дзейнасьці Літоўскага фронту вызваленьня (Lietuvos Išlaisvinimo Frontas), які пры падтрымцы Абвэру ўтварыў літоўскі часовы ўрад на чале зь Ёзасам Амбразявічусам.

Супрацоўніцтва групы Шчорса і Абвэру распачалося ў другой палове 1940 г. Яно грунтавалася на вэрбоўцы і перасылцы ў савецкую Беларусь агентаў, падрыхтаваных у абвэраўскім цэнтры ў г. Суляювэк пад Варшавай[111]. Не пазьней як вясной 1941 г. група Шчорса пачала вэрбаваць добраахвотнікаў у дывэрсійныя падразьдзяленьні “Абвэру”. Быў створаны 50–асабовы атрад, які пасьля вучобы ў Лямсдорфе пад Аполем 18.6.1941 г. быў перакінуты цераз мяжу ў раёне Сувалак з заданьнем выканаць дывэрсіі на чыгуначнай лініі Стоўпцы—Баранавічы[112]. Ініцыятарам гэтай акцыі быў ксёндз Гадлеўскі, які бачыў у стварэньні дывэрсійнай групы пачатак “першай штурмавой роты” і зародак нацыянальных узброеных сілаў[113]. Варшаўскі камітэт пры супрацоўніцтве з СД сфармаваў таксама групу зь некалькіх дзясяткаў чалавек для кіраваньня будучымі

[109] Пануцэвіч В. С. 73—74.

[110] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан, 1960. С. 77—78.

[111] Гл. справаздачны рапарт камандзіра пагранвойскаў БССР за 1940 г. ад 21.1.1941 // Пограничные войска СССР. 1939 — июнь 1941. Сборник документов и материалов. Москва, 1970. С. 344.

[112] Захаваўся пратакол, здабыты немцамі ў Менску, з тэкстам допыту савецкімі органамі аднаго з чальцоў гэтай дывэрсійнай групы, Браніслава Валасэвіча. Ён быў чальцом польскага падпольля, уступіў у Беларускі камітэт у Варшаве, там яму дапамаглі знайсьці працу, а 10.5.1941 г. накіравалі на перанавучаньне ў Лямсдорф. Курс быў скончаны 13.6.1941 г. На допыце Валасэвіч назваў некалькі прозьвішчаў удзельнікаў сваёй групы (Сядынскі, Акінчык, Тачаноўскі, Станкевіч, Галчынскі). Увогуле цераз мяжу перакінулі ня ўсіх, а толькі 41 чалавека. — AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/939–941. Пра гэтую самую дывэрсійную групу гл. таксама: Befehl des Chefs des Generalstabes der Heeresgruppe B zum Einsatz von Diversanten beim Überfall auf die Sowjetunion, 20.5.1941 // Fall Barbarossa. Berlin, 1970. S. 260—261.

[113] Пануцэвіч В. С. 80.

органамі адміністрацыі і паліцыі неадкладна пасьля прыходу на Беларусь нямецкіх войскаў.

Варта заўважыць, што беларускі палітычны дзяяч Радаслаў Астроўскі[114], які адыграў асабліва важную ролю ў гісторыі акупацыі Беларусі, займаў у гэты час чакальную пазыцыю і афіцыйна не далучаўся да ніводнай з гэтых групаў. На працягу шматгадовай палітычнай кар'еры ён прызвычаіўся загадзя не выкладаць сваіх картаў на стол. У гэтым сэнсе ён быў куды больш абачлівы, чым астатнія прэтэндэнты на ўладу ў Беларусі, асабліва ў параўнаньні з Шчорсам і кс. Гадлеўскім, чые ініцыятывы, як выявілася, ня мелі за сабой ніякіх сапраўдных гарантыяў і абавязаньня зь нямецкага боку. Зрэшты, у Астроўскага былі і іншыя прычыны, каб ня ўдзельнічаць у такім спаборніцтве напярэдадні нападу на СССР. Большасьць яго прыхільнікаў засталася на радзіме, а ў эміграцыі ў яго быў непрымірымы праціўнік — ксёндз Гадлеўскі, які ня мог дараваць Астроўскаму супрацоўніцтва з камуністамі ў 1924—1927 г., а потым — з польскімі ўладамі. У новай сытуацыі Астроўскі палічыў за лепшае пазьбягаць скандалаў і даносаў. Таму ён не ўвайшоў у групу "Цэнтар" і замацаваўся на сьціплай пасадзе кіраўніка лодзьскага аддзяленьня самапомачы, а пазьней — тутэйшай *Vertauenstelle* і чакаў адпаведнага моманту[115].

У беларускіх колах панавалі надзеі на падтрымку трэцяга райху для справы беларускай дзяржаўнасьці. На гэтым фоне дзейнасьць Янкі Станкевіча[116], ідэалягічна зьвязанага з Вацлавам Іваноўскім, была выняткам. Гэтыя дзяячы скептычна ацэньвалі шанцы Нямеччыны на перамогу, а акупацыю Беларусі разглядалі як часовую зьяву і гэтак жа, як і польскае падпольле, арыентаваліся на заходніх саюзьнікаў, адводзячы ім у сваіх прагнозах вызначальную ролю пры арганізацыі пасьляваеннага ладу ў Эўропе. Асабліва пажаданы быў, на іх думку, польскі саюзьнік, зь ім зьвязваліся надзеі на вывад беларускага пытаньня на міжнародную арэну на базе фэдэрацыйнай канцэпцыі. Гэтыя дзяячы разьлічвалі на магчымасьць пераадолець цяжкасьці, зьвязаныя галоўным чынам з разыходжаньнямі ў тэрытарыяльным пытаньні, і знайсьці шляхі да паразуменьня з польскім падпольлем[117].

Канцэпцыя Іваноўскага і Станкевіча ў адным важным пункце ўсё ж не адрозьнівалася ад пазыцыяў астатніх групаў. Яна дапускала выкарыстаньне нямецкай акупацыі для ўзмацненьня беларускага нацыяналізму, у прыватнасьці, пры апанаваньні адміністрацыі і стварэньні ўласных узброеных сілаў. Аднак супрацоўніцтва зь немцамі ставіла пад пытальнік посьпехі ў польска–беларускім дыялёгу і асьвятленьня беларускага пытаньня ў Лёндане. Верагодна, папярэдняе высьвятленьне тактыкі паводзін у гэтай

[114] Радаслаў Астроўскі нар. 25.10.1897 г. у фальварку Запольле Слуцкага павету, скончыў гімназію ў Слуцку (1908), унівэрсытэт у Пецярбургу і Дэрпце (1908—1913), палітычны дзяяч у Слуцку і Менску (1917—1918), у войску ген. Дзянікіна (1920), дырэктар беларускай гімназіі ў Вільні (1924—1936), пераведзены ў адміністрацыйным парадку ў Лодзь (восень 1936). У лютым 1924 г. стаў заснавальнікам прапагандысцкага Польска–беларускага таварыства, пасьля яго распаду — супрацоўнік КП(б) Беларусі і КПЗБ, куратар падпольнага камсамолу ў гімназіі (1924—1925); чалец кіраўніцтва БСРГ і дырэктар Беларускага каапэратыўнага банку ў Вільні, празь які праходзілі сродкі з СССР на фінансаваньне Грамады (1925—1926); сябра КПЗБ (1926). Арыштаваны (студзень 1927) і абвінавачаны на працэсе Грамады. Зьмяніў свой палітычны кірунак і стаў арганізатарам і прапагандыстам супрацоўніцтва з санацыяй (1928—1936). Пасьля вайны— палітычны дзяяч у эміграцыі. Памёр 17.10.1976 г. у ЗША.

[115] Kalush V. In the Service of the People for a Free Byelorussia. London. P. 32—35.

[116] Ян Станкевіч нар. 26.11.1891 г. у вёсцы Арляняты Ашмянскага павету, скончыў беларускую гімназію ў Вільні (1921), унівэрсытэт у Празе. Доктар філязофіі (1926), выкладнік беларускай мовы ў Варшаўскім (1928—1932) і Віленскім (1927—1940) унівэрсытэтах, пасол польскага сойму (1928—1930), публіцыст, палітычны дзяяч, аўтар шматлікіх працаў з мовазнаўства й гісторыі, пасьля вайны жыў на эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША, памёр 16.07.1976 г.

[117] Туронак Ю. Беларускае пытаньне... С. 464—484 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

няпростай справе адбылося ў першай палове 1940 г. у Вільні і прадугледжвала падвойную гульню, пры якой ролі павінны былі падзяляцца наступным чынам: Вацлаў Іваноўскі будзе займацца дзейнасьцю афіцыйнай, а Янка Станкевіч — стварэньнем канспірацыйнага цэнтру, у вачох польскага падпольля — чыстага ад абвінавачваньняў у супрацоўніцтве зь немцамі. У чэрвені 1940 г. Станкевіч прыбыў у Варшаву і празь некалькі месяцаў утварыў падпольную арганізацыю пад назвай Партыя беларускіх нацыяналістаў (ПБН), галоўным чынам, сярод сяброў Беларускага камітэту, апазыцыйна настроеных да палітыкі Шчорса і Гадлеўскага. Ён завязаў кантакт з Зоф'яй Дабрынскай ("Эвай") — дзяячкай усходняга нацыянальнага сэктару Бюро інфармацыі і прапаганды (БІП) у Галоўным камандаваньні ЗУБ — Зьвязу ўзброенай барацьбы (арганізацыя, якая папярэднічала стварэньню Арміі Краёвай. — *Ю.Т.*), праз пасярэдніцтва якога летам 1941 г. паспрабаваў распачаць перамовы зь БІПам. Аднак да гэтага не дайшло. Напэўна, тут аказалі ўплыў недавер да Станкевіча і сумненьні ў значнасьці ПБН, якую ён прадстаўляў, а таксама нежаданьне саступаць у дыскусіі наконт будучыні заходнебеларускіх земляў, якія лічыліся часткаю тэрыторыі Польшчы.

У такой сытуацыі арыентацыя беларускіх групаў на супрацоўніцтва з трэцім райхам магла здавацца больш рэалістычнай. Праўду кажучы, тут не было дасягнута якіх–небудзь дамоўленасьцяў, аднак цікавасьць, якую выяўлялі нямецкія вайсковыя колы да беларускай праблематыкі, узбуджала надзеі эміграцыйных дзеячоў на блізкую падтрымку незалежніцкіх ідэяў і пастулятаў. Гэта былі небеспадстаўныя надзеі, мяркуючы па выказваньнях Гітлера адносна будучыні Беларусі і іншых заходніх рэспублік СССР.

Упершыню Гітлер выказаўся ў гэтай справе 21.7.1940 г., калі, паведамляючы аб рашэньні напасьці на СССР, сфармуляваў палітычныя мэты сваёй кампаніі. На заходніх землях СССР павінны былі функцыянаваць тры асобныя дзяржаўныя арганізмы — Украіна, Беларусь і фэдэрацыя прыбалтыйскіх рэспублік[118]. Гэтую канцэпцыю ён паўтарыў у канцы ліпеня 1940 г., ляканіча растлумачыўшы: "Украіна, Беларусь і балтыйскія дзяржавы — да нас", што ўказвала на імкненьне ўзалежніць будучыя дзяржавы ад Нямеччыны[119]. У наступным сваім выказваньні ад 5.12.1940 г. Гітлер акрэсьліў ролю гэтых дзяржаваў як буфэраў трэцяга райху (Pufferstaaten)[120]. Магчыма, што на стварэньне гэтай канцэпцыі паўплываў прэцэдэнт з Славацкай дзяржавай, якая паўстала вясной 1939 г.[121].

Да праблемы будучага статусу Беларусі і іншых савецкіх тэрыторыяў Гітлер нанова зьвярнуўся ў пачатку 1941 г., калі апрацоўваў інструкцыю да дырэктывы № 21 (плян "Барбароса"). Паводле слоў начальніка штабу Ёдля, яго ўказаньні гучалі наступным чынам:

> Каб скончыць гэтую вайну, на такіх агромністых землях недастаткова будзе проста разьбіць непрыяцельскія войскі. Уся тэрыторыя павінна быць падзеленая на дзяржавы з уласным кіраўніцтвам, зь якімі мы зможам укласьці мір. Стварэньне такіх урадаў вымагае вялікага спрыту і як сьлед абдуманых агульных прынцыпаў. Кожная рэвалюцыя ў вялікім маштабе прыводзіць да фактаў, якіх ужо ня ўдасца выкрасьліць. Сёньняшнюю Расею ўжо немагчыма ўявіць без сацыялістычнай ідэі. Толькі яна можа ствараць унутраную аснову для ўзьнікненьня там новых дзяржаваў і ўрадаў. Жыдоўска–бальшавіцкая інтэлігенцыя — дагэтуль прыгнятальнік народу — мусіць быць зьнішчана... Нашаю мэтай ёсьць як мага хутчэйшае, пры затраце мінімальных вайсковых сілаў, стварэньне залежных ад нас сацыялістычных дзяржаўных арганізмаў. Заданьне гэта настолькі складанае, што нельга абцяжарваць ім армію[122].

---

[118] Halder F. Kriegstagebuch. Bd. 11. Stuttgart, 1963. S. 33, 41.
[119] Ibidem. S. 50.
[120] Kriegstagebuch der Oberkommandos der Wehrmacht // Bd. 1. Frankfurt/Main, 1965. S. 205.
[121] 14 сакавіка 1939 г. славацкі сойм абвясьціў "самастойную і незалежную Славацкую дзяржаву", якую 18 сакавіка Нямеччына ўзяла "пад сваю абарону". — *А.П.*
[122] Warlimont W. Im Hauptquartier der deutschen Wehrmacht 1939—1945. Frankfurt/Main, 1962. S. 167—168.

Для гэтага, — працягваў Ёдль, — на савецкія тэрыторыі, “разьмежаваныя нацыянальна, будуць накіроўвацца камісары райху, мэтай якіх будзе хуткае палітычнае будаўніцтва новых дзяржаваў”[123].

Гэтыя ўказаньні Гітлера, што акрэсьлівалі паводзіны Вэрмахту ў палітычнай галіне, былі ўлічаны ў падпісанай 13.3.1941 г. шэфам галоўнага камандаваньня ўзброеных сілаў Кайтэлем інструкцыі да дырэктывы пляну “Барбароса”. У ёй гаварылася:

> Расейская тэрыторыя, якую мы павінны заняць па ходу апэрацыі, як толькі дазволіць разьвіцьцё ваенных дзеяньняў, будзе падзелена паводле спэцыяльных указаньняў на асобныя дзяржавы з сваімі ўрадамі... Як толькі апэрацыйная зона дасягне дастатковай глыбіні, яна з тылу будзе абмежавана. Новаакупаваныя землі на тылах апэрацыйнай зоны атрымаюць уласную палітычную адміністрацыю. Паводле нацыянальнай спэцыфікі і тактычнага разьмежаваньня вайсковых групаў, яны будуць спачатку падзелены на “Поўнач” (Прыбалтыка), “Цэнтар” (Беларусь) і “Поўдзень” (Украіна). На гэтых землях палітычная адміністрацыя пераходзіць у рукі райхскамісараў, якія атрымаюць дырэктывы ад фюрэра[124].

Гэтыя дырэктывы ўсё яшчэ не задавальнялі Гітлера, таму пасьля знаёмства зь імі 17.3.1941 г. ён зноў пацьвердзіў:

> Мы павінны стварыць вольныя ад Сталіна рэспублікі (“Stalinfreie Republiken”). Сталінскую інтэлігенцыю належыць зьнішчыць. Кіраўнічы апарат дзяржавы павінен быць разьбіты[125].

Некалькі дзён пазьней ён ужо гаварыў аб Прыбалтыцы, Беларусі і Ўкраіне як аб дзяржавах–пратэктаратах, якія “павінны быць сацыялістычнымі, аднак ня мець уласнай інтэлігенцыі”. “Трэба, — казаў Гітлер, — прадухіліць стварэньне новай інтэлігенцыі. Дастаткова абмежавацца тут прымітыўнай сацыялістычнай інтэлігенцыяй”[126].

Гэтыя выказваньні даюць некаторае ўяўленьне аб характары задуманых Гітлерам дзяржаваў. Аляксандар Далін ацэньваў іх як “кантраляваныя Нямеччынай і пазбаўленыя значэньня адміністрацыйныя адзінкі”[127], а Джэралд Райтлінджэр ахрысьціў гэтую канцэпцыю Гітлера як “сапраўднае вар’яцтва”, бо ня мог сабе ўявіць функцыянаваньня дзяржавы без нацыянальнага кіраўніцтва[128]. Можна, аднак, сумнявацца, ці былі гэтыя намеры Гітлера вядомыя сярод беларускіх эміграцыйных дзяячоў, якія арыентаваліся на трэці райх, але нават знаёмства з гэтымі плянамі наўрад ці зьмяніла б іх пазыцыю. З гледзішча нацыянальных інтарэсаў візія будучай “вольнай ад Сталіна” Беларусі мала чым адрозьнівалася ад сталінскай рэспублікі, і гэта аднолькава датычыла пытаньня палітычнай незалежнасьці, як і пазыцыі нацыянальных кіраўнічых кадраў. Новая сытуацыя папросту абазначала замену каманднага цэнтру — з Масквы на Бэрлін, але пэрспэктыва здабыцьця абмежаванай дзяржаўнасьці ўсё ж яе прываблівала.

Аднак дырэктывы Гітлера ўзбуджалі засьцярогі сярод вядучых функцыянэраў трэцяга райху. У асяроддзьдзі Розэнбэрга, прызначанага міністрам акупаваных усходніх земляў, як сьведчыць дакладная запіска гэтага ведамства № 1 ад 2.4.1941 г., хоць і згаджаліся з адасабленьнем Беларусі і нават павелічэньнем яе тэрыторыі на ўсходзе, аднак меркавалі, што ўсё ж яна “занадта адстае ў культурнай і гаспадарчай галінах”, у сувязі

[123] Ibidem. S. 168.
[124] Ibidem. S. 169.
[125] Halder. S. 320.
[126] Ibidem. S. 336—337 (запіс ад 30.3.1941).
[127] Dallin A. German Rule in Russia 1941—1945. A Study of Occupation Policies. London, 1957. P. 49—50.
[128] Reitlinger G. The House Built on Sand. The Conflicts of German Policy in Russia 1939—1945. London, 1960. P. 69.

з чым “абуджэньне яе нацыянальнага жыцьця і стварэньне паўнакроўнага дзяржаўнага мэханізму можа аказацца вельмі маруднай і цяжкай справай”[129]. Тым ня менш, — сказана было далей, — гэтую спробу ўсё–такі варта было б падтрымаць дзеля аслабленьня Расеі. Зыходзячы з такіх меркаваньняў, ведамства Розэнбэрга не прапаноўвала варыянтаў далучэньня часткі беларускіх земляў да генэральнага губэрнатарства, што магло б стаць сьведчаньнем распрацоўкі такой канцэпцыі ў Бэрліне.

Ня маючы веры ў сьпеласьць беларускай нацыі да самастойнай дзяржаўнасьці, дастатковую для дзяржаўнай самастойнасьці, Розэнбэрг не рашаўся канчаткова сфармуляваць сваю пазыцыю адносна яе будучыні. Ён быў прыхільнікам стварэньня самастойнай украінскай дзяржавы і пратэктарату прыбалтыйскіх краін — Літвы, Латвіі і Эстоніі (*Baltenland*), якія пасьля калянізацыі, германізацыі “расава прыдатных” элемэнтаў і высяленьня элемэнтаў непажаданых павінен быў некалі стаць часткай нямецкай дзяржавы. Беларусь жа не ўваходзіла ў праектаваныя Розэнбэргам тэрытарыяльныя структуры. З аднаго боку, ён не плянаваў прызнаньня незалежнага дзяржаўнага статусу Беларусі, як, напрыклад, Украіны, з другога боку, кіруючыся галоўным чынам этнічнымі (расавымі) прынцыпамі, не прызначаў ёй будучыні, падобнай да Балтэнлянду[130]. Нарэшце, толькі ў траўні 1941 г. Розэнбэрг прызнаў неабходнасьць злучэньня Беларусі з прыбалтыйскімі краінамі ў адным райхскамісарыяце Остлянд, аднак гэта было часовае выйсьце, тыпова адміністрацыйнае, якое не вырашала яе будучага палітычнага статусу.

Пры такой сытуацыі сфармуляваныя Розэнбэргам і яго супрацоўнікамі “задачы” Беларусі былі імглістыя, часта падлягалі зьменам і ніколі не вырашаліся канчаткова. Яна то трактавалася як тэрыторыя, што падлягала разам з Прыбалтыкай германізацыі і ўлучэньню ў райх, то як абшар, які не падлягаў такому ўлучэньню[131]. Часам Беларусь называлі зямлёй для перасяленьня “непажаданых элемэнтаў” з Прыбалтыкі і Польшчы і нават — будучым прыродным запаведнікам. Пры гэтым Розэнбэрг не выключаў наданьня Беларусі ў бліжэйшай неакрэсьленай будучыні “свайго роду аўтаноміі”.

Нэгатыўныя меркаваньні пра Беларусь і непакой перад хуткім выступленьнем на яе тэрыторыі і адміністрацыйных цяжкасьцяў выказваў таксама і гаспадарчы штаб, які ўзначальваў Герман Гёрынг, упаўнаважаны Гітлера ў справах чатырохгадовага пляну. У выдадзеных незадоўга да нападу на СССР дырэктывах, т.зв. “зялёнай тэчцы”, ён папярэджваў вайсковых камандзіраў і гаспадарчыя службы, што “на Беларусі напачатку будзе, напэўна, цяжка знайсьці пласт ляяльных да нас кіраўнікоў, бо беларусы ў сваім інтэлектуальным узроўні стаяць ніжэй за тамтэйшых расейцаў, жыдоў, палякаў”[132].

---

[129] Denkschrift № 1, 2.4.1941, 1017—RS, Der Prozess gegen Hauptkriegsverbrecher vor dem Internationalen Militärgerichtshof Nürnberg 14 November 1945 — 10 Oktober 1946 (далей — IMGN), Bd. XXVI. Nürnberg, 1947. S. 547.

[130] Instruktion vom 8. Mai 1941 für einen Reichskommissar im Ostland, 1029–RS, IMGN, Bd. XXVI, S. 573. Адпаведны запіс у інструкцыі гучаў у арыгінале наступным чынам: “Ziel eines Reichskommissars für Estland, Lettland, Litauen muss es sein, die Form eines deutschen Protektorats zu erstreben...”. Пазьней пасьля “Litauen” алоўкам было дапісана “Weissruthenien”. — Гл.: IMGN, Bd. 111, S. 400. Як высьветлілася на Нюрнбэрскім працэсе, названая інструкцыя была часовым праектам і ў такой форме не высылалася ведамствам Розэнбэрга // IMGN, Bd. XI, S. 526, 621. Гл. таксама: Rede Rosenbergs vor den engsten Beteiligten am Ostproblem vom 20 Juni 1941, 1058–PS, IMGN, Bd. XXVI, S. 617—618, 623.

[131] Instruktion vom 8. Mai 1941 für einen Reichskommissar im Ostland...; Allgemeine Instruktion vom 8. Mai 1941 für Reichskommissare in den besetzten Ostgebiete, 1030–PS, IMGN, Bd. XXVI, S. 576.

[132] Fall Barbarossa. Dokumente zur Vorbereitung der faschistischen Wehrmacht auf die Aggression gegen die Sowjetunion (1940/41). Berlin, 1970. S. 387.

У кантэксьце гэтых меркаваньняў Нацыянальны патэнцыял беларусаў варта адзначыць ініцыятыву аддзелу па ўпарадкаваньні земляў (Reichstelle für Raumordnung). У мэмарыяле, падрыхтаваным гэтай установай 22.6.1941 г. і перасланым шэфу дзяржаўнай канцылярыі Лямэрсу, а значыць — адрасаваным Гітлеру, прапаноўвалася перанесьці ўсходнюю мяжу генэральнага губэрнатарства да лініі Ліда — Баранавічы — Лунінец — Сарны — Роўна — Тарнопаль. Гэты праект фактычна азначаў улучэньне ў генэральнае губэрнатарства пераважнай часткі тэрыторый, якія паводле савецка–нямецкай дамовы былі заняты Чырвонай Арміяй у верасьні 1939 г. Сваю прапанову аддзел па ўпарадкаваньні земляў абгрунтоўваў, па–першае, “адсутнасьцю магчымасьцяў разьвіцьця ў польскага народу на яго цеснай тэрыторыі”, а па–другое, — “моцнай палянізацыяй беларусаў, якія ня выпрацавалі амаль ніякіх нацыянальных імкненьняў”[133].

Цяжка вызначыць, у якой меры адбіліся погляды нямецкіх вышэйшых колаў, занятых рэалізацыяй пляну “Барбароса”, на пазыцыю Гітлера ў справе палітычнай адміністрацыі на землях будучай акупацыйнай зоны. Ясна адно: пасьля сваіх сакавіцкіх выказваньняў ён ужо больш не варочаўся да канцэпцыі “вольных ад Сталіна” рэспублік. 16.5.1941 г. ён паведаміў Лямэрса, што яшчэ не прыняў канчатковага рашэньня аб арганізацыі цывільнага кіраўніцтва, але зьбіраўся агаварыць яго асобна, з зацікаўленымі пэрсонамі[134]. Але і на пачатку чэрвеня ў гэтай справе не было зроблена ніякіх удакладненьняў, пра што сьведчаць дырэктывы галоўнага камандаваньня Вэрмахту па прапагандзе. Яны сьцьвярджалі, што “ня трэба пакуль што прапагандаваць разьдзяленьне СССР на паасобныя дзяржавы”, аднак папярэджвалі, што гэта не канчатковая дырэктыва, бо разьвіцьцё палітычнай сытуацыі перад самым пачаткам апэрацыі можа выклікаць “асабліва дзейсныя новыя прапагандысцкія тэндэнцыі”[135].

Новыя тэндэнцыі неўзабаве праявіліся, аднак не пацьвердзілі прагнозаў Галоўнага камандаваньня. 18 чэрвеня начальнік паліцыі бясьпекі выдаў распараджэньне, якое забараняла беларускім, украінскім, расейскім і каўкаскім эмігрантам вяртацца зь Нямеччыны на радзіму без дазволу паліцыйных уладаў[136]. Амаль адначасова ведамства Розэнбэрга атрымала катэгарычную забарону ўступаць у перамовы з прадстаўнікамі гэтых эмігрантаў[137].

Вясной 1941 г. у ходзе прыгатаваньняў да нападу на СССР былі распрацаваныя і зацьверджаныя шматлікія падрабязныя інструкцыі, якія сталі асновай дзеяньняў Вэрмахту, апэрацыйных групаў паліцыі (Einsatzgruppen) і гаспадарчай службы на акупаваных землях. Яны датычылі правядзеньня вайсковых апэрацыяў, гаспадарчай эксплюатацыі, вынішчэньня паасобных групаў насельніцтва, абыходжаньня з ваеннапалоннымі і інш. Не было затое аніякіх цьвёрдых рашэньняў наконт будучай адміністрацыйна–палітычнай разьвязкі. І калі 22.6.1941 г. нямецкія войскі ўваходзілі на тэрыторыю Беларусі, ніводная акупацыйная інстанцыя не арыентавалася ў справе прызначанага ёй палітычнага статусу.

---

133 Memorial Reichstelle für Raumordnung “Das GG und die Interessengrenze am Bug”, 22.6.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 86/1079–1087.
134 Ліст Лямэрса да Кайтэля, 20.5.1941, 1188–PS, Archiwum Głównej Komisji Badania Zbrodni Hitlerowskich w Polsce (далей — AGKBZH), Amerykański Trybunal Wojskowy XI, Dokumenty Prokuratury. T.29. S. 27.
135 OKW Weisungen für die Handhabung der Propaganda im Falle “Barbarossa”, Juni 1941, 026–C, IMGN, Bd. XXXIV, S. 191—195.
136 Anordnung des Chefs der Sipo und des SD, 18.6.1941, 1573–PS, IMGN, Bd. XXVII, S. 345.
137 (Rosenbergs) Bericht 28.6.1941 über die Vorbereitungsarbeit für den osteuropäischen Raum, 1039–PS, IMGN, Bd. XXVI, S. 584.

# II. З надзеяй на хуткую перамогу (чэрвень—сьнежань 1941)

## Савецкая эвакуацыя зь Беларусі

Нямецкія войскі пад камандаваньнем фэльдмаршала фон Бока, якія ўваходзілі ў склад групы армій “Цэнтар”, за першы тыдзень вайны занялі Горадню, Берасьце, Маладэчна, Слуцак, Баранавічы, Менск, Бабруйск — г.зн. практычна ўсю Заходнюю і Цэнтральную Беларусь. 9 ліпеня яны выйшлі на лінію Дняпра, 11 ліпеня занялі Віцебск, 13–га — Воршу, 15–га — Полацак, 16–га — Смаленск і 26–га — Магілёў. Астатняя невялікая паўднёва–ўсходняя частка Беларусі была акупавана ў другой палове жніўня: 19–га — Гомель, 22–га — Мазыр.

Толькі 29 чэрвеня, г.зн. назаўтра пасьля таго, як немцы занялі Менск, Савет народных камісараў СССР і ЦК усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) накіравалі ў партыйныя і дзяржаўныя органы прыфрантавой паласы дырэктыву, у якой акрэсьліваліся асноўныя задачы эвакуацыі[1]. Яшчэ пазьней — 3 ліпеня — гэтыя задачы агучыў народу Сталін у сваёй прамове па радыё. Яны гучалі так:

> Пры вымушаным адыходзе частак Чырвонай Арміі трэба адганяць увесь рухомы чыгуначны склад, не пакідаць ворагу ніводнага паравоза, ніводнага вагону, не пакідаць праціўніку ні кілаграму хлеба, ні літру паліва. Калгасьнікі павінны адганяць увесь скот, хлеб здаваць пад ахову дзяржаўным органам для вывазу яго ў тылавыя раёны. Уся каштоўная маёмасьць, у тым ліку каляровыя мэталы, хлеб і паліва, якая ня можа быць вывезена, павінна безумоўна зьнішчацца[2].

Эвакуацыя насельніцтва на ўсход і перамяшчэньне альбо зьнішчэньне матэрыяльных здабыткаў і запасаў адыгрывала важную ролю ў савецкай абарончай стратэгіі. Гэтыя захады прымаліся савецкімі ўладамі з намерам пазбавіць немцаў магчымасьці выкарыстаньня людзкога і гаспадарчага патэнцыялу пакінутых земляў і адначасова яго эксплюатацыі ў сваіх абарончых інтарэсах.

Аднак імклівы наступ нямецкіх войскаў не дазволіў рэалізаваць гэтых дырэктываў на землях Заходняй Беларусі і Меншчыны[3]. Гэтая частка Беларусі толькі нязначна адчу-

**Табліца 3.** Тэрыторыя і насельніцтва Беларускай ССР (стан на 1.1.1941)

| | Тэрыторыя (тыс. км$^2$) | Насельніцтва (тыс. чал.) |
|---|---|---|
| Беларуская ССР уся | 225,7 | 10454,9 |
| у т.л. | | |
| усходнія вобласьці | 127,3 | 5640,0 |
| Гомельская | 15,8 | 917,1 |
| Менская | 28,3 | 1347,2 |
| Магілёўская | 28,9 | 1402,7 |
| Палеская | 26,0 | 680,0 |
| Віцебская | 28,3 | 1293,0 |
| заходнія вобласьці | 98,4 | 4815,5 |
| Баранавіцкая | 23,3 | 1184,4 |
| Беластоцкая | 20,9 | 1368,8 |
| Берасьцейская | 17,2 | 790,4 |
| Пінская | 16,3 | 533,6 |
| Вялейская | 20,7 | 938,3 |

*Крыніца:* Раков А. Население БССР. Минск, 1969. С. 8.

[1] Беларуская савецкая энцыклапедыя (далей — БелСЭ). Мінск, 1975. Т. 12. С. 160.
[2] Сталин И. О Великой Отечественной войне Советского Союза. Москва, 1947. С. 15.
[3] Vakar N. Belorussia. The Making of a Nation. Harward University Press. Cambridge (Mass), 1956. P. 172.

ла на сабе вынікі савецкай эвакуацыі. Тут нават амаль не пасьпелі правесьці мабілізацыю прызыўнікоў[4]. Асабліва моцна (на 80%) быў разбураны Менск, але галоўнай прычынай гэтага былі налёты нямецкай авіяцыі[5].

Затое іншая сытуацыя панавала ўва ўсходніх рэгіёнах Беларусі: на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне і Палесьсі — тут савецкія ўлады мелі больш часу для эвакуацыйных захадаў. Варта разгледзець бліжэй вынікі гэтай акцыі, галоўным чынам, каб даць ацэнку становішча насельніцтва і гаспадарчага патэнцыялу Беларусі пасьля прыходу нямецкіх войскаў.

Калі браць фармальна, у гэтай ацэнцы павінна ўлічвацца ўся тэрыторыя тагачаснай БССР плошчаю 225,7 тыс. км$^2$ (гл. табл. 3), бо яе зьмены адбыліся ўжо пасьля вайны, у выніку чаго яна паменшала да 207,6 тыс. км$^2$. Аднак на практыцы гэта не заўсёды ўдаецца, таму што апублікаваныя пасьля вайны вынікі савецкай эвакуацыі і іншых захадаў пры адступленьні, а таксама памеры людзкіх і гаспадарчых стратаў, якія адбыліся па віне нямецкіх акупацыйных органаў, датычаць сучаснай тэрыторыі БССР, бяз той часткі Берасьцейшчыны і Беласточчыны, якая пасьля вайны адыйшла да Польшчы[6]. Таму ўсюды, дзе гэта ня будзе агаворвацца спэцыяльна, прыведзеныя ацэначныя дадзеныя эвакуацыі датычаць сучаснага абшару Беларусі.

*Насельніцтва*. Агульная колькасьць жыхароў Беларускай ССР у цяперашніх межах на 1.1.1941 г. была роўная 9183 тыс. чал. Доля вясковага насельніцтва складала каля 80%, у тым ліку ўва ўсходніх абласьцях — 74%. Нацыянальную структуру насельніцтва Беларусі напярэдадні вайны можна акрэсьліць толькі прыблізна. Паводле перапісу 17.12.1926 г., сярод жыхароў усходніх абласьцёў беларусы складалі 80,6%; габрэі — 8,2%, расейцы — 7,7%; палякі — 2,0%. Але ў выніку перасяленьняў у 30–х г.[7] колькасьць беларусаў у працэнтнай структуры паменшала. Яшчэ цяжэй даць ацэнку насельніцтва заходніх абласьцёў. Паводле польскага перапісу 9.12.1931 г., 48,7% мясцовых жыхароў палічылі за родную беларускую, “рускую” або “тутэйшую” мову, 38,8% — польскую; 8,4% — габрэйскую; 1,7% — украінскую; 1,7% — расейскую. Гэтыя дадзеныя не адлюстроўвалі сапраўднага стану. Пра тое сьведчыць наступны факт: доля праваслаўнага насельніцтва — 57,4% — аказалася больш за тую, што разам складала жыхарства зь беларускай, “рускай”, “тутэйшай”, украінскай або расейскай мовай[8]. Таму можна вызначыць працэнт беларускамоўнага насельніцтва разам зь яго каталіцкай часткай на нешта каля 65%. У 1940—1941 г. ён павялічыўся. З аднаго боку, гэтаму спрыяў наплыў службоўцаў, настаўнікаў і т.п. з Усходняй Беларусі, з другога боку — узьдзейнічала распачатая савецкімі ўладамі дэпартацыя, якая найбольш закранула польскае насельніцтва. Аднак ацэнка долі беларускага жыхарства на гэтых землях напярэдадні нямецкага нашэсьця, якую прыводзяць савецкія аўтары, — звыш 80%, — выгля-

[4] Гісторыя Беларускай ССР. Мінск, 1975. Т.4. С.134, 137.

[5] Разбурэньне Менску нямецкай авіяцыяй апісана ў нямецкіх крыніцах: Ereignismeldung UdSSR, № 23, 15.7.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721505. Паводле прызнаньняў сьведкаў, “усё вышэйшае кіраўніцтва, міліцыя, служба бясьпекі і нават шэф грамадзянскай абароны разам з сваім штабам пакінулі горад (Менск. — *Ю.Т.*) за тры дні да заняцьця яго немцамі. Ніхто нават не спрабаваў гасіць пажары...” // Vakar N. P. 171.

[6] Гэтыя зьмены былі прадугледжаны ў польска–савецкай дамове ад 16.8.1945, паводле якой СССР перадаў на карысьць Польшчы 17 раёнаў Беластоцкай і 3 раёны Берасьцейскай вобласьці. Гл.: Раков А. Население БССР. Минск, 1969. С. 9. Фактычна гэтыя землі польская адміністрацыя пераняла ўжо ўлетку 1944 г.

[7] Пад перасяленьнямі трэба разумець высылку беларускіх сялянскіх сем’яў у Расею падчас калектывізацыі, прымусовыя “вэрбоўкі” моладзі на “будоўлі сацыялізму” і г.д. — *А.С.*

[8] Разьлікі, выкананыя аўтарам на падставе: Drugi powszechny spis ludności z 9.12.1931 r. (tomy: woj. wileńskie, nowogródzkie, poleskie i białostockie), Warszawa 1936—1938. Пра тое, што гэтыя дадзеныя ня поўнасьцю адпавядалі рэчаіснасьці, гл.: Tomaszewski J. Z dziejów Polesia 1921—1939. Warszawa, 1963. S. 22—23.

дае перабольшана[9]. Напэўна, яна абмяжоўвалася 70—75%. Паводле ўдакладненых дадзеных, летам 1941 г. савецкія ўлады на Беларусі мабілізавалі для службы ў Чырвонай Арміі каля 500 тыс. чалавек і эвакуавалі звыш 1,5 млн. яе жыхароў[10]. Разам гэта складала каля 2,0 млн. чалавек, г.зн. прыблізна 22% ад усяго насельніцтва БССР у цяперашніх межах. Як паведамляюць М.М. Загарулька і А.Х. Юдзянкоў, тут ня ўлічваліся рабочыя і інжынэрныя спэцыялісты, якія былі перавезены на ўсход разам з сваімі прадпрыемствамі і ўстановамі, а таксама тыя людзі, што рушылі ў эвакуацыю з уласнай ініцыятывы і на сваім транспарце[11]. З улікам гэтых катэгорый насельніцтва агульная лічба мабілізаваных у войска і вывезеных у глыб СССР павінна яшчэ павялічыцца.

Мабілізацыя і эвакуацыя ў паасобных рэгіёнах адбывалася па–рознаму. У Заходняй Беларусі гэтыя акцыі закранулі галоўным чынам нядаўніх прыбыльцаў — савецкіх дзяржаўных і партыйных функцыянэраў. Затое карэннае насельніцтва ў большасьці сваёй засталося на месцы. Прычынаю такіх паводзін стаў ня толькі хуткі наступ нямецкіх войскаў. Значыў тут і досьвед 1939—1941 г., які не спрыяў эвакуацыйным тэндэнцыям[12]. Таму пераважная большасьць эвакуаванага насельніцтва паходзіла з Усходняй Беларусі, дзе, за выняткам Меншчыны, савецкія ўлады пасьпелі разгарнуць адпаведную кампанію. Такім чынам, у выніку эвакуацыі і мабілізацыі колькасьць жыхароў у гэтай частцы рэспублікі паменшала прыкладна на 35%. Яшчэ больш зьнізіўся ўзровень насельніцтва ў Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай і Палескай абласьцях.

*Прамысловасьць*. У 1940 г. на Беларусі пражывала 4,8% насельніцтва СССР, тады як удзел краіны ў агульнасаюзнай вытворчасьці не перавышаў 2%[13]. У пераліку на душу насельніцтва ўзровень прамысловай прадукцыі быў, такім чынам, ніжэйшы ў 2,4 раза ў параўнаньні зь сярэднім па СССР. Тагачасная беларуская энэргетыка працавала галоўным чынам на торфе і драўніне і пастаўляла 0,5 млрд. квт. гадз. электраэнэргіі; г.зн. 55 квт. гадз. на аднаго жыхара, або ў 4,6 раза менш, чым у сярэднім па СССР (252 квт. гадз.) і ўдвая менш, чым у даваеннай Польшчы (1938 г. — 113 квт. гадз.), якая ў гэтай галіне займала адно з апошніх месцаў у Эўропе. Гэтыя паказчыкі адлюстроўваюць нізкі тагачасны патэнцыял і тэхнічны ўзровень беларускай прамысловасьці, якая, за выняткам машынабудаўніцтва і мэталаапрацоўкі (15,2% ад агульнай вытворчасьці), грунтавалася на перапрацоўцы мясцовай сыравіны — сельскагаспадарчай, лясной і мінэральнай. У 1940 г. больш за 90% прамысловай прадукцыі БССР прыходзілася на ўсходнія раёны: 23,1% — на Віцебск; 21,2% — на Менск; 16,6% — на Гомель і 11,5% — на Магілёў. Гэтыя чатыры гарады агулам давалі 72,4% прамысловай прадукцыі рэспублікі[14].

З названых усходніх раёнаў было эвакуавана ўсяго 109 вялікіх і сярэдніх прадпрыемстваў, сярод іх 90 аб'ектаў — зь Віцебску, Гомелю і Магілёва. Кошт сродкаў вытворчасьці — машын і абсталяваньня — на гэтых прадпрыемствах ацэньваўся ў 478,1 млн.

---

[9] Большая советская энциклопедия (далей — БСЭ). Москва, 1950. Т. 4. С. 476.

[10] БСЭ. Москва, 1970. Т. 3. С. 134; БелСЭ. Мінск, 1975. Т. 12. С. 163; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 137. У шэсьцьдзясятых гадох фігуравала значна ніжэйшая лічба эвакуаванага насельніцтва (звыш 1 млн. чалавек). Крыніцай гэтай інфармацыі быў даведнік–праваднік па залях Беларускага музэю гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, выдадзены ў Менску ў 1960 г. Гл.: Эшелоны идут на восток. Сборник статей и воспоминаний из истории преобразования производительных сил СССР в 1941—1945 гг. Москва, 1966. С. 88.

[11] Загорулько М.М., Юденков А.Ф. Крах экономических планов фашистской Германии на временно оккупированной территории СССР. Москва, 1970. С. 72.

[12] Трэба мець на ўвазе і цяжкі досьвед "уцякацтва" падчас першае сусьветнае вайны. Акрамя таго, сярод насельніцтва заходніх паветаў Беларусі захавалася неблагая памяць пра "першых немцаў" як пра культурны народ. — *А.С.*

[13] Белорусская ССР. Очерки экономической географии. Минск, 1953. С. 151.

[14] БелСЭ. Т. 12. С. 282.

рублёў. Гэта была палова ад сумы ўсіх асноўных фондаў Усходняй Беларусі[15]. Акрамя таго, шмат прадпрыемстваў былі часткова дэмантаваныя і зьнішчаныя. Зь іх вывезьлі 3200 мэталаапрацоўчых станкоў, 8933 тэкстыльныя, трыкатажныя і шавецкія машыны, 8664 рухавікі, 18 турбагенэратараў з агульнай магутнасьцю 32 тыс. квт. (ува ўсёй Усходняй Беларусі яна складала 105,3 тыс. квт.), 69 трансфарматараў, 845 тон каляровых мэталаў і 3366 вагонаў іншай сыравіны і гатовых вырабаў[16]. Такім чынам, на тэрыторыі, дзе эвакуацыя праводзілася плянамерна, г.зн. у Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай і Палескай абласьцях, прамысловая вытворчасьць была ў значнай ступені падарваная. Затое ў Менску прадпрыемствы панесьлі толькі частковыя страты, а ў заходніх рэгіёнах увогуле ўцалелі.

*Сельская гаспадарка.* Паводле перагледжаных зьвестак, летам 1941 г. зь Беларусі на ўсход было адагнана 674 тыс. (бяз коней) галоў жывёлы[17]. Апрача таго, калгасы перадалі ў распараджэньне Чырвонай Арміі 36 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы і 11 тыс. сьвіньняў. Разам гэта складала 721 тыс. галоў — амаль 9% ад усяго пагалоўя рэспублікі, прычым статак буйной рагатай жывёлы зьменшыўся амаль на 440 тыс. галоў, або на 15,4%. Савецкія крыніцы не падаюць зьвестак пра маштабы зарэзу жывёлы часьцямі Чырвонай Арміі, канторай “Заготжывёла” і сялянамі, што адбывалі ў эвакуацыю або заставаліся на месцы. Між тым гэта былі сур’ёзныя страты, улічваючы іх, можна меркаваць, што пагалоўе жывёлы ў Беларусі пры ўваходзе нямецкіх войскаў аказалася на 20—25% ніжэйшае, чым на пачатку 1941 г. Верагодна, што ў такой самай ступені паменшала і пагалоўе сьвіньняў — адганяць іх на вялікую адлегласьць было нельга, таму часьцей забівалі на месцы. Значна зьменшылася і конскае пагалоўе пасьля рэквізыцыяў, якія праводзілі пры адступленьні атрады Чырвонай Арміі.

Савецкія эвакуацыйныя мерапрыемствы ў галіне сельскай гаспадаркі гэтак жа, як у

**Табліца 4.** Эвакуацыя жывёлы зь Беларускай ССР (тыс. галоў)
А — агульны ўзровень пагалоўя на 1.1.1941 г.
В — колькасьць жывёлы, якая была эвакуавана летам 1941 г.

| | **Коні** | | **Буйная рагатая жывёла** | | **Сьвіньні** | | **Авечкі і козы** | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **А** | **В** | **А** | **В** | **А** | **В** | **А** | **В** |
| Беларуская ССР | | | | | | | | |
| цалкам | | | | | | | | |
| (у сучасных межах) | 1170,3 | – | 2843,6 | 395,3 | 2520,4 | 15,5 | 2577,9 | 245,0 |
| у тым ліку: | | | | | | | | |
| заходнія вобласьці | 572,8 | – | 1221,9 | 0,0 | 1109,8 | 0,0 | 1364,7 | 0,0 |
| усходнія вобласьці | 597,5 | – | 1621,7 | 395,3 | 1410,6 | 15,5 | 1213,2 | 245,0 |
| Гомельская | 94,8 | – | 228,0 | 65,3 | 209,6 | 9,5 | 115,8 | 70,4 |
| Менская | 129,9 | – | 367,3 | 15,0 | 398,6 | – | 284,9 | 5,0 |
| Магілёўская | 166,5 | – | 384,0 | 70,0 | 379,2 | 3,5 | 298,2 | 27,0 |
| Палеская | 71,5 | – | 305,6 | 115,0 | 180,6 | 2,5 | 193,5 | 42,6 |
| Віцебская | 134,8 | – | 336,8 | 130,0 | 242,9 | – | 320,8 | 100,0 |

*Крыніца:* Статистический справочник состояния народного хозяйства и культуры БССР к началу Великой Отечественной войны. Без м. выд., 1943, в. 148; Народное хозяйство Белорусской ССР. Москва, 1966. С. 102.

---

[15] Кошт асноўных вытворчых фондаў, у т.л. машын, абсталяваньня і будынкаў, ува ўсходніх абласьцях БССР на 1.1.1941 г. складаў 1321,8 млн. рублёў. Нельга параўноўваць з гэтай сумай кошт эвакуаваных сродкаў вытворчасьці (478,1 млн. руб.), бо сюды не ўвайшлі прамысловыя будынкі. Гл.: Экономика Советской Белоруссии. Минск, 1967. С. 228, 288.

[16] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 138.

[17] Тамсама, с. 139.

выпадку з насельніцтвам і прамысловымі прадпрыемствамі, у найбольшай ступені закранулі ўсходнія вобласьці — Віцебскую, Магілёўскую, Гомельскую і Палескую. Толькі ў выніку эвакуацыі агульнае пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў гэтых абласьцях зьменшылася на 30%, авечак — на 26% (гл. табл. 4). Калі дадаць сюды паставы жывёлы для Чырвонай Арміі і не адлюстраваныя ў справаздачах факты забою — узровень пагалоўя ў чатырох усходніх абласьцях аказваецца ў гэтым выпадку амаль напалову ніжэйшы ў параўнаньні з 1941 г.[18].

У яшчэ большай ступені скараціліся ўва ўсходніх абласьцях БССР запасы збожжа і хлебных прадуктаў. З агульнай іх колькасьці — 151,5 тыс. тон — было вывезена на ўсход або выкарыстана нейкім іншым чынам 81,2 тыс. тон, або 54%; зьнішчана 42,5 тыс. тон, або 28%[19]. Астатак часткова быў падзелены савецкімі органамі паміж людзьмі, а часткова разрабаваны насельніцтвам[20]. Савецкія ўлады імкнуліся зьнішчыць таксама і нязжатую збажыну, і ім гэта ўдалося ў некаторых раёнах Усходняй Беларусі[21]. Савецкі гісторык А. Фактаровіч, намагаючыся зьмякчыць сапраўдныя памеры гэтай спусташальнай кампаніі, даводзіць, што яна не датычыла той часткі пасеваў, якую ўлады падзялілі сярод людзей падчас сваёй эвакуацыі[22]. Але гэтую ацэнку не пацьвярджаюць шматлікія ўлёткі, якія раскідаліся з самалётаў у зоне нямецкай акупацыі (напрыклад, пад Магілёвам); у іх савецкія ўлады заклікалі калгасьнікаў да зьнішчэньня ўраджаю. Гэтыя заклікі, аднак, ігнараваліся насельніцтвам[23].

Важнае месца ў эвакуацыйнай палітыцы савецкіх уладаў займала ліквідацыя сродкаў сельскагаспадарчай вытворчасьці на пакінутых землях. Было вывезена амаль 5000 трактароў (а разам зь імі — больш за 3900 трактарыстаў), 223 збожжавыя камбайны і мноства іншай сельскагаспадарчай тэхнікі, у дадатак перададзена ў распараджэньне арміі 600 цягачоў і 400 камбайнаў. Гэта складала адпаведна 54% цягачоў і 37% камбайнаў ад агульнарэспубліканскай гаспадаркі ў пачатку 1941 г. Адначасова для вайсковых патрэбаў перадавалася вялікая колькасьць коней. Такія захады таксама закранулі галоўным чынам усходнія раёны Беларусі, дзе сельская гаспадарка засталася бяз значнай цяглавай сілы, як мэханічнай, так і коннай.

Асабліва выяўны характар у часе савецкай эвакуацыі набыла дзейнасьць групаў зьнішчэньня, т.зв. "истребительных батальонов", сярод іх заданьняў значылася, між іншым, руйнаваньне будынкаў агульнаграмадзкага ўжытку, жылых дамоў і іншых публічных збудаваньняў. У батальёны набіралі часьцей за ўсё камсамольцаў, якія не падпадалі пад мабілізацыю. На Беларусі яны дзейнічалі на падставе дырэктывы ЦК кампартыі Беларусі ад 23.06.1941 г.[24], аднак іх арганізоўвалі таксама і ў Літве, што паказвае на існаваньне адзінага распараджэньня, якое зыходзіла ад цэнтральных савецкіх уладаў.

Яны, аднак, не паўсюль маглі выканаць свае заданьні, нішчачы маёмасьць і сродкі існаваньня цывільнага насельніцтва з разьлікам прымусіць яго да эвакуацыі. Так, на заходнебеларускіх землях вынікі гэтай дзейнасьці былі даволі сьціплыя. Прычынаю тут стаў ня толькі хуткі прыход немцаў, але і супраціў насельніцтва, якое старалася аба-

---

[18] Лічыцца, што пры адгоне на ўсход каля 15% свойскай жывёлы загінула, 20—25% было перададзена вайсковым часьцям і дзяржаўным арганізацыям. На пачатку 1942 г. у розных абласьцях РСФСР знаходзілася ўжо каля 200 тыс. галоў жывёлы, эвакуаванай зь Беларускай ССР. Гл.: Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 139.

[19] Эшелоны идут на восток... С. 104.

[20] Факторович А.А. Крах аграрной политики немецко–фашистских оккупантов в Белоруссии. Минск, 1979. С. 38; Vakar N. P. 173.

[21] Загорулько М., Юденков А. С. 197.

[22] Факторович А. С. 36—38.

[23] Ereignismeldung UdSSR, № 69, 29.8.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2722133.

[24] БелСЭ. Т. 12. С. 161.

раніць сваю маёмасьць. Ды і мясцовыя камсамольцы ня выявілі асаблівай руплівасьці пры выкананьні такіх загадаў. Інакш выглядала справа на ўсходзе Беларусі. Тут дзейнасьць "истребительных батальонов" падтрымлівалася сіламі арміі. Вынікам падобных апэрацыяў сталі значныя спусташэньні на Віцебшчыне, між іншым, амаль цалкам былі спалены Віцебск і Полацак[25]. На ўсход ад Барысава таксама паліліся грамадзкія і жыльлёвыя будынкі[26]. Страты, панесеныя ад дзейнасьці гэтых групаў, ніколі не выяўляліся і не падлічваліся. Пасьля вайны іх сьпісвалі на нямецкіх акупантаў.

У выніку эвакуацыі значная частка людзкіх і матэрыяльных рэсурсаў Беларусі паслужыла для абароны СССР. Затое для нямецкай ваеннай гаспадаркі вынікі гэтай кампаніі ня мелі вялікага значэньня. Немцы не пераацэньвалі прамысловага патэнцыялу БССР і ня вельмі разьлічвалі на яго выкарыстаньне. Эвакуацыя не стварыла асаблівых перашкодаў для забесьпячэньня харчамі нямецкага войска і акупацыйнай адміністрацыі, бо з насельніцтва іх спаганялі самым бязьлітасным чынам. Таму востры дысбалянс паміж павялічаным попытам і паніжанай прапановай харчовых сродкаў найперш лёг цяжарам на плечы мясцовага цывільнага насельніцтва.

Такім чынам, эвакуацыя прынесла савецкім уладам ня толькі пэўную матэрыяльную карысьць. Яна выконвала важную палітычную ролю і была разбуральным фактарам у грамадзкім жыцьці акупаванай Беларусі, пагаршаючы бытавыя цяжкасьці яе насельніцтва. На гэта было разьлічана, між іншым, згаданае руйнаваньне жылых дамоў і людзкой маёмасьці, якое не зьмяшчаецца ў эканамічныя катэгорыі барацьбы. Сталін ужо ў сваёй прамове па радыё 3 ліпеня сфармуляваў задачы мабілізацыі насельніцтва для партызанскай барацьбы і стварэньня на акупаваных землях "нясьцерпных умоў для ворага і яго паслугачоў"[27]. Гэта было грознае прадвесьце, абвяшчэньне бязьлітаснай барацьбы, дзе ня браліся ў разьлік бытавыя інтарэсы насельніцтва. Ува ўмовах голаду, галечы і адсутнасьці даху над галавой куды больш было шанцаў на тое, каб уцягнуць народ у антынямецкія выступленьні. Гэтае выказваньне сьведчыла яшчэ аб адным: савецкія ўлады адмаўляліся ад усялякіх формаў грамадзкай дзейнасьці, якія дапамаглі б забясьпечыць людзям пад акупацыяй элемэнтарную ахову здароўя і маёмасьці. Прызнавалася толькі барацьба.

Гэтыя намеры знайшлі рэалізацыю ўва Ўсходняй Беларусі. Грамадзкае жыцьцё было тут паралізавана: спустошаныя прадпрыемствы, сельская гаспадарка бяз сродкаў вытворчасьці, кадры спэцыялістаў — на фронце або ў эвакуацыі, уся адміністрацыйная сыстэма, сувязь і забесьпячэньне разбураныя, значная частка насельніцтва перавезена на ўсход. На долю цывільнага насельніцтва, якое не пакінула родных мясьцін, выпалі вялікія страты[28]. Заходняя Беларусь апынулася ў значна лепшым становішчы. У параўнаньні з усходнімі рэгіёнамі летам 1942 г. у Менску яе называлі "квітнеючай"[29].

## Беларусь пад нямецкай вайсковай адміністрацыяй (чэрвень—жнівень 1941)

Адразу пасьля таго, як нямецкія войскі занялі Беларусь, на ўсім яе прасьцягу была ўведзена вайсковая адміністрацыя. Згодна з дырэктывамі Галоўнага камандаваньня Вэрмахту, яна мела пераходны характар, зь цягам часу цывільныя ўлады павінны былі пераняць ад яе адміністрацыйныя функцыі. Насамрэч у 1941 г. цывільным уладам была перададзена толькі частка Беларусі, рэшта яе тэрыторыі да канца акупацыі знаходзілася

---

[25] Ereignismeldung UdSSR, № 31, 23.7.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721618.
[26] Vakar. P. 173.
[27] Сталин И. С. 15.
[28] На думку Вакара, страты гэтыя былі "непараўнальна большыя" за тыя, што прычынілі немцы падчас акупацыі. Гл. цытаваную працу. С. 171.
[29] Справаздача "Эвы" з падарожжа ў Менск ад пачатку жніўня 1942 г., ЦА ЦК ПАРП, 203/VII–45, к. 18.

пад вайсковай адміністрацыяй. Пэрыяд поўнага панаваньня вайсковай адміністрацыі працягваўся толькі пару тыдняў.

У той час пераважная частка Беларусі ўваходзіла ў склад тылу групы армій “Цэнтар”, аднак яе паўднёвыя раёны апынуліся ў тыле групы армій “Поўдзень”. Мяжа, што падзяляла гэтыя тылы, ішла ўздоўж чыгуначнай лініі Берасьце — Гомель за 10—20 кілямэтраў на поўнач ад яе.

Паводле распараджэньня галоўнакамандуючага сухадольных войскаў ад 3.4.1941 г., адміністрацыйныя задачы арміі не ішлі далей за падтрыманьне на акупаваных землях парадку і бясьпекі дзеля іх гаспадарчага выкарыстаньня франтавымі і акупацыйнымі атрадамі. Гэтыя ўказаньні праводзіў у жыцьцё на пераважнай частцы беларускай тэрыторыі камандуючы тыламі групы армій “Цэнтар” генэрал Макс фон Шэнкендорф. Пры яго штабе, які летам 1941 г. часова разьмяшчаўся ў Баранавічах, дзейнічаў галоўны камандзір СС і паліцыі, групэнфюрэр СС Эрых фон дэм Бах[30]. Ён узначальваў ахоўныя войскі СС, іх мэтай была пацыфікацыя занятых беларускіх земляў. Бах падначальваўся райхсфюрэру СС Гімлеру.

Праз шэфа паліцыі і службы бясьпекі райху Райнгарда Гайдрыха Гімлер кіраваў яшчэ і дзейнасьцю апэрацыйных групаў (Einsatzgruppen) — спэцыяльных паліцыйных атрадаў, прызначаных для барацьбы з палітычнымі праціўнікамі гітлерызму, галоўным чынам камуністамі і савецкімі функцыянэрамі, а таксама — для вынішчэньня габрэйскага насельніцтва. На Беларусі дзейнічала айнзацгрупа В, перайменаваная 11.7.1941 г. у айнзацгрупу Б[31], ёю кіраваў брыгадэнфюрэр СС Артур Нэбэ. У другой палове ліпеня камандаваньне айнзацгрупы Б (Einsatzgruppe B) пераехала ў Смаленск, дзе быў разьмешчаны штаб камандзіра групы армій “Цэнтар”.

Камандуючаму тылам групы армій падпарадкоўвалася сетка тэрытарыяльных палявых камэндатур (Feldkommandanturen), а ім, у сваю чаргу — шматлікія мясцовыя камэндатуры (Ortkommandanturen), якія ствараліся практычна ўва ўсіх гарадох і райцэнтрах. На ўсіх узроўнях гэтага вайскова–адміністрацыйнага апарату дзейнічалі адпаведныя гаспадарчыя службы. Яны займаліся арганізацыяй харчовых і фуражных паставаў і мабілізацыяй мясцовага насельніцтва для выкананьня неабходных для войска работ. Апрача таго, вайсковыя камэндатуры давалі падтрымку раённаму апарату айнзацгрупы Б, куды ўваходзілі рухомыя апэрацыйныя атрады паліцыі, т.зв. *Einsatzkommandos*.

Але гэты вайскова–паліцыйны апарат ня мог цалкам справіцца з усімі гаспадарчымі, ахоўнымі і рэпрэсіўнымі задачамі. Для падтрыманьня жаданага парадку трэба было арганізаваць яшчэ адзін, дадатковы, сіламі мясцовага насельніцтва. Акупацыйныя ўлады тут кіраваліся згаданай інструкцыяй галоўнакамандуючага сухадольных войскаў ад 3.4.1941 г., якая дапускала стварэньне органаў мясцовай адміністрацыі ў абсягу адпаведна патрэбам арміі. На такой падставе паўставалі службы сярэдняга і ніжэйшага ўзроўню, гарадзкія, раённыя і валасныя ўправы. Яны мелі ў сваім распараджэньні мясцовую дапаможную паліцыю (службу аховы парадку). Усе гэтыя органы маглі працаваць пад строгім беспасярэднім наглядам вайсковых камэндатур і, згодна з названай інструкцыяй, не павінны былі мець характару палітычнай адміністрацыі. Яе спадзяваліся стварыць толькі пасьля ўвядзеньня цывільнай адміністрацыі.

Варта зьвярнуць асаблівую ўвагу на працэс стварэньня дапаможнага адміністрацыйна–паліцыйнага апарату на Беларусі. На тое ёсьць некалькі прычын. Па–першае, гэта

---

[30] Бах–Зялеўскі Эрых Юліюс Эбэргард фон дэм (1899—1972) — обэргрупэнфюрэр СС і генэрал паліцыі, з 1941 па 1944 г. — вышэйшы кіраўнік СС і паліцыі цэнтральнай Расеі зь сядзібай спачатку ў Магілёве, а пасьля ў Менску. Арганізатар масавых пакараньняў сьмерцю ў Менску і Магілёве. Восеньню 1944 г. — адзін з кіраўнікоў падаўленьня Варшаўскага паўстаньня. — *А.П.*

[31] Айнзацгрупа А дзейнічала ў тыле групы армій “Поўнач”, г.зн. у Прыбалтыцы, у тым ліку і ў некалькіх сельсаветах Беларусі, далучаных немцамі да Літвы. — *Ю.Т.*

быў зыходны пункт у дзейнасьці акупацыйнага рэжыму. Па–другое, усе ўправы і паліцыя павінны былі ствараццца нанова, бо папярэдняя савецкая адміністрацыя перастала дзейнічаць. Нарэшце, па–трэцяе, у працэсе стварэньня новай адміністрацыі адлюстравалася пэўнае стаўленьне насельніцтва да нямецкай акупацыі, дарма што часам прызначэньне на службу тут рабілася пад прымусам.

Трэба бліжэй прыгледзецца да гэтай праблемы яшчэ з аднае прычыны: савецкія гісторыкі малююць адназначна варожае стаўленьне беларускага народу да нямецкай акупацыі. Раманоўскі сьцьвярджае нават, што ў "савецкіх людзей не было іншых перакананьняў, акрамя самаахвярнай адданасьці сваёй сацыялістычнай Радзіме і справе камуністычнай партыі"[32]. Такія пасылкі абгрунтоўвалі тэорыю аб стыхійным супраціве акупантам з самых першых дзён вайны. Усялякія іншыя матывы паводзін беларускага насельніцтва, як, да прыкладу, нежаданьне ўмешвацца ў нямецка–савецкую барацьбу, падтрымка акупацыйнага рэжыму або выкарыстаньне яго ўва ўласных нацыянальных інтарэсах, — папросту выключаліся з разгляду.

Тым часам у беларускім грамадзтве не вялося ніякай папярэдняй прапагандысцкай падрыхтоўкі на выпадак нямецкай агрэсіі. Гэта быў вельмі важны фактар, які абумоўліваў стаўленьне грамадзтва да акупацыі. Прафэсар Чэслаў Мадайчык трапна заўважыў наступнае:

> У 1939—1941 г., г.зн. ува ўмовах савецка–нямецкага супрацоўніцтва, у Савецкім Саюзе пазьбягалі ўсяго, што магло б стаць для гітлераўскага райху прычынай нападу і канфлікту. Нягледзячы на трывогу, выкліканую экспансіяй гэтай дзяржавы, у поглядах савецкіх людзей зьнікала адчуваньне грознай небясьпекі нямецкага фашызму, якую так моцна падкрэсьліваў у 1935 г. Камінтэрн; не было інфармацыі аб злачынствах райху ў некаторых, ужо занятых ім, краінах... [33]

Ува ўмовах псыхалягічнай нэўтралізацыі грамадзтва стаўленьне да нямецкага нападу і акупацыі фармавалася на падставе ўласнага досьведу, на ўражаньнях ад савецкай рэчаіснасьці. Асабліва складаная сытуацыя панавала ў Заходняй Беларусі. Беларускае насельніцтва гэтага краю пры канцы 1939 г. з радасьцю сустрэла савецкую аграрную рэформу і ліквідацыю польскага асадніцтва. Але неўзабаве пачалася прымусовая калектывізацыя, пераважная частка сялян сустрэла яе варожа. І хоць да чэрвеня 1941 г. пад калектывізацыю падпала ўсяго 49 тыс. вясковых гаспадарак, г.зн. толькі 6,7% ад іх агульнай колькасьці, ход падзеяў сьведчыў пра немінучы працяг гэтай кампаніі[34].

Нельга, аднак, сьцьвярджаць, што адны асьцярогі перад калектывізацыяй вызначалі стаўленьне большасьці беларусаў да савецкай улады. Часта яны самі станавіліся яе апорай і мелі прытым немалы выйгрыш, асабліва ў галіне асьветы, культуры і грамадзка–палітычнай пэрспэктывы[35]. Пры гэтым, праўда, пачаліся палітычныя рэпрэсіі і дэпартацыі, якіх не пазьбеглі нават дзяячы былой КПЗБ, але масавым зьявішчам яны ня сталі і не зьмянілі такім чынам прыхільнага настрою шырокіх сялянскіх масаў да савецкай улады. Дарэчы, нават Уладзіслаў Казлоўскі, лідэр беларускага нацыянал–сацыялізму, у гэты час спакойна жыў у Вільні, магчыма, у гэтым праявіўся ўплыў тагачасных савецка–нямецкіх стасункаў[36]. Улады не чапалі таксама і дзяячоў Беларускага народнага аб'яднаньня — кс. Адама Станкевіча, Станіслава Грынкевіча–старэйшага, Язэпа Най-

[32] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 51.
[33] Madajczyk Cz. Faszyzm i okupacje 1938—1945. Wykonywanie okupacji przez państwa Osi w Europie. Poznań. T. 1. 1983. S. 546.
[34] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С.106—107.
[35] Тамсама, с. 84 і далей.
[36] Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Успаміны. Таронта, 1976. С. 31.

дзюка. Тое самае датычыць прафэсара Вацлава Іваноўскага і інш.

Затое ў палякаў пасьля верасьня 1939 г. было шмат прычын для незадавальненьня. Гэтае насельніцтва ў 1920—1939 г. было часткай пануючай нацыі. Пасьля прыходу савецкіх уладаў яно апынулася ў становішчы нацменшасьці. Адчуваць такую перамену было вельмі балюча. Да таго ж на іх абрынуўся галоўны цяжар дэпартацыяў. Усе польскія ваенныя і цывільныя асаднікі, уся лясная служба падпалі пад высяленьне[37]. Немалую частку высяленцаў склалі польскія чыноўнікі і паліцыянты[38]. Памешчыцтва (пераважна — польскае) страціла матэрыяльную аснову для існаваньня. Напалоханыя рэпрэсіямі, многія палякі шукалі сховішча ў Вільні або на тэрыторыі генэральнага губэрнатарства. Яны абвінавачвалі ў гэтых падзеях ня толькі цэнтральныя савецкія ўлады, але і мясцовых беларусаў. Бо менавіта яны станавіліся ўладальнікамі перадзеленых маёнткаў і прылад працы, ім жа прыпісваліся і даносы, церазь якія людзі траплялі на высяленьне ў глыб СССР.

Нягледзячы на розны досьвед ад савецкай рэчаіснасьці ў беларусаў і палякаў, у першых данясеньнях айнзацгрупы Б з Заходняй Беларусі адзначалася адназначна прыхільнае стаўленьне да прыходу нямецкіх войскаў сярод абедзьвюх групаў насельніцтва. Паводзіны насельніцтва пераходзілі ад "прыязнай нэўтральнасьці" да "радасьці з нагоды вызваленьня ад савецкага ярма, якая выяўлялася ў гатоўнасьці беларускага і польскага насельніцтва працаваць разам з намі ў справе аднаўленьня"[39]. Гэтая ацэнка, безумоўна, не датычыла ўсіх беларусаў і ўсіх палякаў, хоць даволі трапна характарызавала ўражаньні першых нямецкіх атрадаў (рапарты СД не прыхарошвалі рэчаіснасьці), аднак ня поўнасьцю адлюстроўвала сапраўднае стаўленьне мясцовых жыхароў.

Прыход немцаў беларускае сялянства адразу ж выкарыстала для роспуску ўсіх калгасаў і вяртаньня на сваю індывідуальную гаспадарку. У Заходняй Беларусі гэта было асабліва лёгка зрабіць, бо тутэйшыя калгасы пратрывалі ўсяго некалькі месяцаў. Гэтая акалічнасьць, напэўна, адыграла сваю ролю — нямецкія ўлады не супраціўляліся іх роспуску, хоць, паводле інструкцыі, павінны былі захаваць калектыўныя гаспадаркі. Затое ў астатніх жыцьцёвых галінах панавала напружанае чаканьне. Немцы не сьпяшаліся з вызначэньнем будучага грамадзка–палітычнага ладу, прыкрываючыся толькі агульнымі лёзунгамі аб вызваленьні ад бальшавізму. Частку беларусаў, найперш супрацоўнікаў савецкай адміністрацыі, настаўнікаў і г.д., ахапіла паніка. Яны баяліся помсты за сваю дзейнасьць у 1939—1941 г. з боку палякаў. Тое самае датычыла і сялянства, якое так ці іначай карысталася дабром, атрыманым у часе аграрнай рэформы.

Пры такой сытуацыі ў людзкіх настроях на Беларусі пераважалі няпэўнасьць і пасіўнасьць. Данясеньні айнзацгрупы Б улетку 1941 г. адзначалі безыніцыятыўнасьць тутэйшага насельніцтва пры арганізацыі адміністрацыйнага апарату і паліцыі. Прычына, на думку немцаў, крылася ў расьцярушанасьці беларускіх лідэраў, і слабасьці беларускай інтэлігенцыі, якая не была падрыхтавана для кіраўніцтва адміністрацыяй[40]. Таму пасьля хадайніцтваў Шчорса, шэфа групы "Цэнтар", у ліпені 1941 г. вайсковыя ўлады выдалі дазвол на арганізацыю беларускіх грамадзкіх камітэтаў. Яны павінны былі згуртоўваць інтэлігенцыю і рыхтаваць яе да кіраўніцтва адміністрацыяй, паліцыяй, школьніцтвам і інш. У ліпені такія камітэты зьявіліся ўва ўсіх буйных гарадох Беларусі, а таксама ў Беластоку і

[37] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4, С. 105.

[38] Па зьвестках беларускіх дасьледчыкаў, агульная колькасьць польскіх чыноўнікаў, цывільных і вайсковых асаднікаў і іншых службоўцаў, якія ў 1921—1939 г. перасяліліся ў Заходнюю Беларусь, даходзіла да 300 тыс. // Раков А. С. 130

[39] Ereignismeldung UdSSR, № 17, 9.7.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721449; 2721778; Dallin. P. 64—65, 214.

[40] Ereignismeldung UdSSR, № 43, 5.8.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721778; № 154, 12.1.1942, ibid, RR 234/2723568.

Вільні. Некаторыя зь іх, асабліва віленскі, наваградзкі, гарадзенскі і беластоцкі, горача прыняліся за справу, аднак ужо ў першай палове жніўня выйшаў загад аб іх роспуску[41]. Захаваўся толькі віленскі камітэт, а пад канец 1941 г. да яго зноў далучыўся беластоцкі. Немцы спадзяваліся выкарыстаць іх у процівагу польскаму і літоўскаму насельніцтву.

Стараньні Шчорса па стварэньні на Беларусі беларускага адміністрацыйнага апарату падтрымлівала СД. Яна выказвала большае зацікаўленьне да нацыянальных праблемаў, чым вайсковыя камэндатуры. Нэбэ, шэф айнзацгрупы Б (Einsatzgruppe B), на пачатку ліпеня, паведамляў, што яшчэ да нападу на СССР галоўная ўправа бясьпекі райху вырашыла выкарыстаць дзеля гэтага беларускіх эмігрантаў з тэрыторыі Нямеччыны і генэральнага губэрнатарства. Нэбэ разьлічваў, што яны будуць накіроўвацца на Беларусь, па дзьве–тры асобы на кожны горад, і зоймуцца там стварэньнем новай адміністрацыі[42]. На загад Нэбэ такую групу беларускіх адміністрацыйных кадраў пачаў камплектаваць супрацоўнік СД у Варшаве штандартэнфюрэр СС доктар Франц Сікс. Пад яго кіраўніцтвам пачаў вэрбаваць такіх людзей і Шчорс. Але вынікі гэтай апэрацыі аказаліся значна больш сьціплыя, чым плянавалася. Было завэрбавана разам каля 50 асобаў, у першыя дні ліпеня іх заслалі на Беларусь[43]. Пераважную частку агентаў накіравалі ўва Ўсходнюю Беларусь, прычым каля 30 асобаў пакінулі ў Менску. Таму выхадцы з эміграцыі адыгралі нязначную ролю ў арганізацыі адміністрацыйнага апарату і паліцыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Пасьля падзеяў 1939—1941 г. сярод польскага насельніцтва Заходняй Беларусі ад пачатку нямецкай акупацыі запанавалі антысавецкія і антыбеларускія настроі. Яно намагалася стварыць у варунках акупацыі такі фактычны стан, каб нанова злучыць Заходнюю Беларусь з Польшчай. Гэта была найвышэйшая мэта, якая апраўдвала ў вачох польскіх незалежнікаў любыя сродкі якія б узмацнялі польскія пазыцыі і выводзілі б з палітычнай гульні беларусаў. Апошніх, не зважаючы на іх прасавецкую ці незалежніцкую арыентацыю, палякі не без падстаў лічылі за патэнцыйную перашкоду на шляху да вяртаньня рыскай мяжы.

Маючы перад сабой такія палітычныя мэты, польскае насельніцтва прыхільна сустрэла нямецкія войскі і распачало актыўна ўдзельнічаць у стварэньні новай адміністрацыі і паліцыі. Авалодваньне мясцовым апаратам улады польскія дзеячы ацэньвалі як важны зыходны пункт аднаўленьня сваіх эканамічных, культурных, а пазьней і палітычных пазыцыяў. Істотнае значэньне ў гэтай справе займала пазыцыя Вэрмахту. Ня маючы спэцыяльных дырэктываў Гітлера аб будучым палітычным статусе Беларусі, вайсковыя колы выяўлялі абыякавасьць да нацыянальных праблемаў і кіраваліся ў сваіх паводзінах выключна прагматычнымі меркаваньнямі. Цікавай ілюстрацыяй такой пазыцыі былі, між іншым, плякаты Вэрмахту, якія выкарыстоўваліся на Беларусі ў першы пэрыяд акупацыі — іх друкавалі на нямецкай, польскай і расейскай мовах, а не па–беларуску[44].

У надзеі на аднаўленьне даверасьнёўскай сытуацыі 1939 г. сьледам за нямецкай арміяй на Беларусь пацягнуўся цэлы шэраг даваенных польскіх чыноўнікаў і дзеячоў, якія ў 1939—1941 г. хаваліся ў Вільні і генэральным губэрнатарстве. Яны мелі рэпутацыю пакрыўджаных саветамі, акрамя таго, пэўная частка гэтых людзей валодала нямецкай мовай[45], таму нямецкія камэндатуры лёгка згаджаліся на тое, каб яны займалі адмініст-

[41] Ereignismeldung UdSSR, № 50, 12.8.1941; № 54, 16.8.1941, ibid, T–175, r. 233/2721875, 2721939; Малецкі Я. С. 45, 51.

[42] Ereignismeldung UdSSR, № 17, 9.7.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721449.

[43] Раманоўскі В. С. 77.

[44] Ereignismeldung UdSSR, № 67, 29.8.1941, ibid, T–175, r. 233/2722119.

[45] У міжваенную пару ў Польшчы была распаўсюджаная практыка накіраваньня на кіроўныя пасады на т.зв. “усходніх крэсах” палякаў з тэрыторыі Галіччыны і Сылезіі. Гэтыя тэрыторыі перад першай сусьветнай вайной уваходзілі ў зону германскага ці аўстрыйскага “забораў”. Таму многія з гэтых людзей у той ці іншай ступені ведалі нямецкую мову. — *А.П.*

рацыйныя і паліцыйныя пасады[46]. Паводле рапартаў айнзацгрупы Б, перайманьне палякамі кіраўніцтва пачалося адразу пасьля ўваходу нямецкіх войскаў. Неўзабаве яны апанавалі ўсе галоўныя пасады ў гарадзкіх і раённых (павятовых) управах Заходняй Беларусі[47]. Была створана, галоўным чынам зноў пад кіраўніцтвам палякаў, мясцовая дапаможная паліцыя, колькасна значна большая за ўсходнебеларускую. СД крытычна ацэньвала паблажлівае стаўленьне Вэрмахту да такіх польскіх ініцыятываў, падазраючы, што ў будучым пад прыкрыцьцём легальнай дапаможнай паліцыі будзе дзейнічаць польскі рух супраціву[48].

Вонкавы характар адміністрацыі ў вялікай ступені вызначаўся паводзінамі чыноўнікаў на ніжэйшых і сярэдніх пасадах. Іх набіралі з заходнебеларускіх гарадоў і мястэчак, і ў залежнасьці ад сытуацыі большасьць зь іх магла гаварыць на трох мовах: польскай, беларускай або расейскай. Паколькі пераважна палякі занялі кіраўнічыя пасады, ува ўправах службовую мовай стала польская. Прывядзём тут некалькі прыкладаў, узятых зь беларускіх, нямецкіх і польскіх крыніц.

*Беластоцкая акруга*. “У цяперашні момант амаль усе адміністрацыйныя пасады, апрача кіраўнічых, якія занялі немцы, знаходзяцца ў руках палякаў, бо акупанты пастанавілі вярнуць на працу тых людзей, што займалі дадзеныя месцы да 1939 г. Дарэчы, недахоп беларускіх кадраў прымусіў акупантаў шукаць апоры ў польскім элемэнце... Дапаможную службу нясе мясцовая паліцыя, амаль цалкам створаная з былых польскіх паліцыянтаў...”[49].

*Горадня*. “Адміністрацыйны апарат Горадні — амаль выключна ў польскіх руках. Добрае супрацоўніцтва зь нямецкімі ўстановамі. 72–асабовая служба парадку — выключна палякі”[50].

*Берасьце*. “Беларусы ў Берасьці задаволеныя, што паўночная частка акругі павінна быць далучана да Ўсходняй Прусіі. У паўднёвай частцы пануе страх перад яе далучэньнем да ГГ (генэральнага губэрнатарства. — *Ю.Т.*) і аднаўленьнем нацыянальнай барацьбы з палякамі. Увогуле — па–ранейшаму незадаволенасьць з таго, што палякі пераняці адміністрацыю”[51].

*Лідзкая акруга*. “Палякі неадкладна ўвайшлі ў кантакт з кіраўнічымі нямецкімі вайсковымі ўладамі ды пачалі займаць усе пасады ў акруговай, павятовай і валаснай адміністрацыі, у паліцыі, а таксама ў нямецкіх установах... Такім чынам, ад самага пачатку нямецкай акупацыі ўся адміністрацыйная і паліцыйная ўлада ў паветах і валасьцях апынулася поўнасьцю ў польскіх руках”[52].

*Вялейская акруга*. “У Вялейскім павеце прыходзілася бачыць такія кур’ёзныя шыльды, як «Пастарунак польскай паліцыі панствовай». У павятовых управах, вясковым школьніцтве, паліцыі, валасьцях — усюды польская мова... Ашмянскі павет палякі лічылі нейкай «польскай рэспублікай». Уся адміністрацыя, паліцыя, школьніцтва былі абсаджаны палякамі... У Маладэчне старшынём павету быў былы ротмістар польскай кавалерыі Віктар Уневіч... Яго заступнікам быў Вітальд Бура-

[46] Ereignismeldung UdSSR, № 97, 28.9.1941, AAN, ibid, T–175, r. 233/2722683. Тое самае пацьвярджае і орган падпольнай Нацыянальнай партыі: “Першыя цывільныя ўлады, створаныя нямецкім войскам, камплектаваліся з улікам антыкамуністычнай палітыкі, таму наймалі шмат польскай інтэлігенцыі...” Гл.: Za Bugiem niemieckie nieporządki // Walka. 3.10.1941. S. 7.

[47] Meldungen aus den besetzten Ostgebieten, № 1, 1.5.1942, ibid, T–175, r. 235/2724358. Тым ня менш былы шэф Віленскага прадстаўніцтва ўраду Сікорскага Зыгмунт Федаровіч напісаў у сваіх успамінах наступнае: “Нямецкая акупацыйная адміністрацыя на тэрыторыі нашых Крэсаў абапіралася на літоўцаў і беларусаў”. Гл. яго: “Trzydzieści lat mego pobytu w Wilnie (1914—1944)”, maszynopis, Biblioteka Ossolineum we Wrocławiu, dział rękopisów, nr akc. 147/57. S. 171.

[48] Ereignismeldung UdSSR, № 97, 28.9.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2722688.

[49] Raport sytuacyjny Delegatury Rządu za okres 15.8—15.9.1941, okręg Białystok, Centralne Archiwum KC PZPR 202/11–6, k. 120.

[50] Ereignismeldung UdSSR, № 50, 12.8.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721875.

[51] Тамсама. № 58. 20.8.1941, ibid, T–175, r. 233/2721964.

[52] Лідзкая акруга падчас нямецкай акупацыі // Беларуская Думка. 1960. Кастрычнік.

чэўскі, былы рэфэрэнт бясьпекі вялейскага староства... Начальнікам паліцыі быў афіцэр польскай «двойкі»[53] Карчэўскі...”[54].

*Баранавічы і Слонім*. “Адміністрацыйны апарат — польскі”[55].

Не такую сытуацыю ўбачылі немцы ўва Ўсходняй Беларусі. Тут дзейнічалі іншыя вызначальныя ўмовы: апрача адрозьненьня, што накладаў даваенны лад жыцьця, свой уплыў аказвалі жахлівыя разбурэньні лета 1941 г. — вынікі эвакуацыйнай кампаніі і ваенных дзеяньняў. У Менску, Віцебску, Магілёве, Гомелі і іншых буйных гарадох ня дзейнічалі электрастанцыі і водаправоды, пераважная частка жыхароў засталася бяз даху над галавой. Пасьля эвакуацыі і зьнішчэньня харчовых запасаў завісла пагроза голаду. Пачаліся нямецкія вайсковыя рэквізыцыі і рабункі. Штодзённым клопатам для гараджан стала барацьба за выжываньне. Адзіным ратункам у такой сытуацыі былі ўцёкі на вёску, ладная частка народу пакінула гарады.

Рабункі і разбурэньні, ад якіх так пакутавала насельніцтва ўсходніх раёнаў Беларусі, для нямецкіх акупантаў былі зьявай звычайнай — яны панавалі ўва ўсёй ваеннай паласе. Куды цікавей было сачыць за палітычным станаўленьнем насельніцтва, якое перад гэтым больш за 20 гадоў пражыло пад узьдзеяньнем савецкай ідэалёгіі. Аднак пачатковыя назіраньні айнзацгрупы Б у першыя тыдні акупацыі ня выявілі якіх–небудзь асаблівасьцяў. Таксама, як і ў заходніх раёнах Беларусі, тутэйшае насельніцтва займала пазыцыю чаканьня або ставілася да немцаў прыязна, адмаўляючы бальшавізм. Крытыка савецкай улады датычыла галоўным чынам эканамічнай і сацыяльнай сфэры[56]. Асуджэньню часьцей за ўсё падлягаў калгасны лад у БССР, які стаў прычынай заняпаду жывёлагадоўлі і земляробства, прывёў да крызісу грамадзкага харчаваньня[57]. Таму і ўва ўсходняй частцы Беларусі стаўленьне жыхароў да нямецкай акупацыі было цесна зьвязана з надзеяй на ліквідацыю калгаснай сыстэмы.

У рапартах айнзацгрупы Б з тэрыторыі Ўсходняй Беларусі адзначалася вялікая грамадзкая пасіўнасьць, яе лічылі за праяву саветызацыі і супрацьпастаўлялі актыўным паводзінам жыхароў заходняй паловы краю. Аднак мы ўжо бачылі, што і ў Заходняй Беларусі карэннае насельніцтва таксама выказвала пасіўнасьць, такім чынам, гэта было агульнацыянальнае беларускае зьявішча. “Заходнебеларускую актыўнасьць” насамрэч выяўлялі пераважна палякі, якія імкнуліся рэалізаваць свае нацыянальныя задачы.

Такіх імкненьняў сярод усходніх беларусаў немцы не заўважалі і прыпісвалі гэта слабой нацыянальнай сьвядомасьці. У немалой ступені яны мелі рацыю. У тутэйшай рэчаіснасьці глыбокі сьлед пакінула барацьба з т.зв. “нацдэмаўшчынай”, якая абярнулася вялізарнымі стратамі для беларускай культуры, выцясьненьнем з ужытку беларускай мовы і ўзмоцненай русіфікацыяй усходняй часткі краю. Варта тут прыгадаць характэрнае выказваньне віленскага беларускага дзяяча Мар’яна Пецюкевіча наконт сытуацыі зь беларускай мовай у Менску:

---

[53] Маецца на ўвазе — афіцэр II аддзелу польскага Генэральнага штабу. II аддзел займаўся пытаньнямі выведкі і контравыведкі. — *А.П.*

[54] А. К–а [Калодка]. Беларуска–польскія суадносіны ў Вялейшчыне 1941—1944 // Зважай. 1981. Сакавік.

[55] Ereignismeldung UdSSR, № 32, 24.7.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721633.

[56] Тамсама. № 20. 12.7.1941; № 43. 5.8.1941; Vakar N. P. 172, 184; Dallin. P. 214.

[57] У 1928—1940 г. на тэрыторыі Ўсходняй Беларусі пагалоўе коней з 1079 тыс. паменшала да 597 тыс., буйной рагатай жывёлы — з 2218 тыс. да 1622 тыс., сьвіней — з 2399 тыс. да 1411 тыс., авечак і коз — з 3817 тыс. да 1213 тыс. Гл.: Социалистическое строительство СССР. Статистический ежегодник. Москва, 1936; Статистический справочник состояния народного хозяйства БССР к началу Великой Отечественной войны. Безь м. в., 1943. С. 148.

> Першы раз у жыцьці давялося мне быць у Менску позьняй восеньню 1941 г. на ўсеагульнай канфэрэнцыі школьных інспэктараў Беларусі... Хаця мне няраз і не было патрэбы чагосьці папытаць у сустрэчных мянчан, але я спрабаваў нешта запытаць, каб пераканацца, ці гэта беларусы. Усе яны на мае пытаньні адказвалі па–расейску і непрыязна глядзелі на мяне. Відаць, беларусаў, як і немцаў, яны залічылі да "акупантаў" ісьціннa "русского народа"... Канфэрэнцыю праводзіў галоўны школьны інспэктар ксёндз Вінцук Гадлеўскі. Стараўся ён з сваім менскім асьветным актывам надаць канфэрэнцыі беларускі патрыятычны дух. Стараўся ў сваіх прамовах укінуць у кожную душу ўдзельніка канфэрэнцыі іскру любові да свайго народу і яго культуры. Кіданыя ім зярняты знаходзілі добрую глебу толькі ў прадстаўнікоў былой Заходняй Беларусі. Усходнікі мала рэагавалі. Яны захоўваліся, як на паншчыне. Падчас перапынкаў яны гуртаваліся "свае з сваімі" і вялі гутарку між сабой на "общепонятном языке". Гэта зьява рабіла дрэннае ўражаньне на тых заходнікаў, якія за сваю культуру, за сваю мову цярпелі прасьлед з боку польскіх акупацыйных уладаў. І мы — заходнікі — на свае вочы ўбачылі "перадавую беларускую інтэлігенцыю" і горка расчараваліся[58].

У ліпені 1941 г. ува Ўсходняй Беларусі быў створаны шэраг камітэтаў з тымі самымі функцыямі, што і ў заходняй частцы краю. Цяжка даць пэўную ацэнку іх дзейнасьці, бо і тут у першай палове жніўня яны былі распушчаны. Але цікава адзначыць, што, паводле данясеньняў айнзацгрупы Б, у адрозьненьне ад Заходняй Беларусі, роспуск камітэтаў не выклікаў сярод усходнебеларускага насельніцтва асаблівай рэакцыі[59]. На гэта ўплывала адсутнасьць нацыянальных супярэчнасьцяў у рэгіёне.

Не заўважалася тут і сур'ёзных сацыяльных канфліктаў, бо гэтаму ў вялікай ступені спрыяла захаваньне папярэдняга аграрнага парадку. "Кулакі", якіх высялялі зь вёскі ў 30–х г., цяпер вярталіся з высылкі і атрымлівалі свае старыя хаты або дапамогу для будоўлі новых. Жонак і дзяцей эвакуаваных функцыянэраў калгасьнікі прымалі ў свае суполкі. Там, дзе не было прычынаў для асабістай помсты, захоўвалася прыязнае стаўленьне да мясцовых партыйцаў, камсамольцаў і міліцыянтаў. Людзі лічылі, што звычайны чалавек не павінен адказваць за рашэньні ўладаў. Грунтуючыся на сьведчаньнях усходнебеларусіх эмігрантаў, амэрыканскі гісторык Нікалас Вакар сьцьвярджае, што на пачатку акупацыі ідэалягічныя матывы не аказвалі ўплыву на грамадзкія зносіны[60]. Тое самае датычыла і акупантаў. "Іх успрынялі, як і многіх іншых у мінулым, не як немцаў, але як людзей, якія несьлі надзею на перамены"[61].

Гэтая ацэнка, вядома, не была справядлівая для ўсяго грамадзтва, бо ўжо зь першых дзён акупацыі пачалося стварэньне савецкага падпольля і партызанскіх атрадаў. У недалёкай будучыні гэты рух зробіцца адным з найважнейшых вызначальных фактараў акупацыйнай гісторыі Беларусі, пакуль што ён быў яшчэ ў зародку, хоць летам 1941 г. было занатавана шмат дывэрсійных акцыяў. Калыскаю і базай руху супраціву стала Ўсходняя Беларусь, дзе ў часе эвакуацыі быў закладзены яго арганізацыйны падмурак.

Характар мясцовай адміністрацыі і паліцыі ўва Ўсходняй Беларусі і сам працэс іх стварэньня аказаліся пад уплывам тутэйшай грамадзкай сытуацыі. У адрозьненьне ад сваіх заходніх суродзічаў, жыхары гэтай паловы краю не выяўлялі асаблівай ініцыятывы ў такой сфэры. На думку Вакара, беларускае насельніцтва, на працягу дваццаці гадоў пазбаўленае права выбару, і цяпер не было падрыхтавана да нейкіх уласных пачынаньняў. Ініцыятыва належала вайсковым камэндатурам: яны пад прымусам набіралі

[58] Пецюкевіч М. Кара за службу народу. Успаміны. Торунь, б.д. Сшытак 1. С. 22—24, ЦНБ АН БССР, аддзел рукапісаў, ф. 23 — калекцыя.
[59] Ereignismeldung UdSSR, № 67, 29.8.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2722116.
[60] Vakar. P. 185.
[61] Ibidem. P. 173.

людзей для мясцовай адміністрацыі або ішлі насустрач кандыдатурам, якіх падтрымлівала насельніцтва. Тым ня менш працэс гэты ішоў зь вялікімі перашкодамі, асабліва на вёсцы, і куды больш марудна, чым у Заходняй Беларусі. Ужо на пачатку жніўня айнзацгрупа Б паведамляла, што на ўсход ад Менску народ ня хоча займаць аніякіх пасад, баючыся вяртаньня савецкіх уладаў або начной помсты партызан[62].

На гэтай зямлі, як і на астатніх тэрыторыях, Вэрмахт не кіраваўся нацыянальнымі крытэрамі пры падборы кадраў. У адміністрацыі і паліцыі служылі беларусы, расейцы, з асаблівай ахвотай сюды бралі фольксдойчаў, якіх у адным толькі Менску налічвалася 150. У некаторых мясцовасьцях вайсковыя ўлады вярталі на пасады былых савецкіх службоўцаў, прытым нават і камуністаў, якія з тых ці іншых прычын засталіся на Беларусі[63]. Быў абвешчаны прызыў у дапаможную паліцыю. У яе шэрагах апынулася, між іншым, нямала ваеннапалонных і савецкіх міліцыянтаў. Новыя ўлады высока ацэньвалі іх прафэсійнасьць і досьвед[64]. Частка гэтых людзей пайшла ў паліцыю на заданьне савецкага падпольля.

На фоне гэтага канглямэрату вылучалася група эмігрантаў на чале з Шчорсам. Яны разьлічвалі на стварэньне ў Менску часовага беларускага ўраду. Але тут іх спаткала расчараваньне. Зараз жа па прыезьдзе айнзацгрупа пасьпяшалася “пераканаць” іх у тым, што яны ўзяліся за марную справу, бо пазыцыя Нямеччыны што да беларускага пытаньня яшчэ ня вызначана — Гітлер ня даў сваіх дырэктываў, і распачынаць палітычную дзейнасьць зарана[65]. Апрача выкананьня інструкцыяў, адзіных для ўсёй дапаможнай адміністрацыі, гэтым дзеячам дазволілі толькі весьці прапаганду дзеля ўзмацненьня нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, каб адмежаваць іх ад расейскага ўплыву.

Такім чынам, надзеі Шчорса і яго групы на хуткае зьдзяйсьненьне іх палітычных плянаў разьвеяліся пасьля прыбыцьця на Беларусь. З распараджэньня айнзацгрупы, вайсковыя ўлады выкарысталі іх для стварэньня адміністрацыі ў Менску і навакольлі. Бурмістрам гораду Менску быў прызначаны малады лекар Вітаўт Тумаш, яго намесьнікам — Адам Дэмідэцкі–Дэмідовіч, а камандзірам гарадзкой дапаможнай паліцыі — Зьміцер Касмовіч. Арганізацыяй адміністрацыі ў Менскім раёне заняўся Мечыслаў Контаўт, у Віцебску — Усевалад Родзька. Затое Шчорс застаўся безь ніякае пасады, хоць у якасьці кіраўніка “Цэнтру” і групы прыбылых эмігрантаў ён, напэўна, разьлічваў адыграць больш важную палітычную ролю[66].

Тым часам на галоўным месцы ў беларускай адміністрацыі нечакана апынуўся Астроўскі, пакінуўшы ззаду ня толькі Шчорса, але і галоўнага свайго суперніка — ксяндза Гадлеўскага, які 22 чэрвеня быў пакліканы на працу на бэрлінскую радыёстанцыю і ўлетку 1941 г. ня мог прыехаць на Беларусь. Астроўскі таксама разьлічваў на магчымае стварэньне беларускага ўраду і спадзяваўся, што зможа яго ўзначаліць. Няўдача Шчорса яго не напалохала — Астроўскі быў занадта дасьведчаны гулец. Прыбыўшы ў Менск, ён неўзабаве, прыкладна 10 ліпеня, атрымаў пасаду шэфа адміністрацыі Менскай акругі[67]. Дагэтуль прадстаўнікам мясцовага насельніцтва даручалі кіраўніцтва толькі павятовымі або гарадзкімі ўправамі. Яму, такім чынам, было даручана кіраўніцтва значна вышэйшага ўзроўню — Менская акруга лічылася сталічнай. У герархіі мясцовых дзеячоў гэта была пасада нумар адзін. Заняўшы яе, Астроўскі разьлічваў зь цягам часу павялічыць свой уплыў і на базе ўправы Менскай акругі стварыць цэнтральны орган беларускай адміністрацыі.

[62] Ereignismeldung UdSSR, № 43, 5.8.1941...
[63] Vakar. P. 177.
[64] Ibidem. P. 180, 263—264.
[65] Ereignismeldung UdSSR, № 21, 13.7.1941...
[66] Ereignismeldung UdSSR, № 90, 21.9.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2722485.
[67] Kalush V. In the Service of the People for a Free Byelorussia. London, 1964. P. 36—37.

Але ў той час на Беларусі панавала сытуацыя, якая не спрыяла зьдзяйсьненьню падобных плянаў. Па–першае, Гітлер так і ня вызначыў сваю пазыцыю што да ўсталяваньня “новага парадку” на ўсходзе. Па–другое, Астроўскі ня меў бы падтрымкі сярод правінцыйнай адміністрацыі, якая стваралася пад кіраўніцтвам Вэрмахту, — у пераважнай ступені тут дзейнічаў небеларускі элемэнт. Таму перш–наперш ён пачаў зьбіраць вакол сябе беларускую інтэлігенцыю. Дзеля гэтага трэба было аднавіць старыя кантакты на Беларусі. Астроўскі зьезьдзіў у Вільню, дабіўся згоды некалькіх асобаў на супрацоўніцтва, дамогся ў немцаў дазволу на пераезд у Менск або ў ваколіцы[68]. Гэтыя захады Астроўскага знаходзілі падтрымку ў СД. Тут з трывогаю назіралі за ростам палітычнага ўплыву палякаў у Заходняй Беларусі і шукалі выйсьця ў расшырэньні беларускай адміністрацыі.

Такім чынам, адміністрацыйны апарат, створаны на Беларусі ў першыя тыдні акупацыі, быў вельмі разнашэрсным. Побач з выпадковымі элемэнтамі і функцыянэрамі ніжэйшага ўзроўню, якія шукалі звычайнай працы, ён быў важнай і адзінай ува ўмовах вайсковай адміністрацыі легальнай сфэрай дзейнасьці мясцовых палітычных групаў, якія шляхам заняцьця кіраўнічых пасадаў у дапаможным апараце імкнуліся забясьпечыць сабе ўплыў на хаду падзеяў згодна з сваімі мэтамі. З пункту гледжаньня ідэалягічных матываў у гэтым апараце ўдзельнічалі:

— беларускія дзеячы, якія імкнуліся да стварэньня незалежнай беларускай дзяржавы;

— польскія дзеячы, якія імкнуліся аднавіць становішча, што існавала да верасьня 1939 г.;

— дзеячы савецкага падпольля розных нацыянальнасьцяў, якія выконвалі дывэрсіі і выведзаданьні дзеля вяртаньня становішча, што панавала да чэрвеня 1941 г.

Сутыкненьне гэтых палітычных сілаў непазьбежна павінна было прывесьці ўва ўмовах акупацыі да польска–савецкага канфлікту за Заходнюю Беларусь, паколькі беларускі нацыяналізм станавіўся перашкодай як для польскага, так і для савецкага падпольля, таму абодва бакі ставіліся да яго аднолькава варожа. Прэлюдыяй у гэтай барацьбе “ўсіх з усімі” на першым этапе акупацыі стаў польска–беларускі канфлікт.

Першай яго праявай былі стараньні былых земляўласьнікаў вярнуць сабе страчаныя маёнткі і інвэнтар, падтрыманыя нямецкімі вайсковымі ўладамі і мясцовай адміністрацыяй. Многія распарцэляваныя землі або маёнткі, некалі пераробленыя на саўгасы, улетку 1941 г. зноў апынуліся ў руках старых уласьнікаў. Адпаведных юрыдычных распараджэньняў наконт рэгуляцыі правоў на зямлю яшчэ не было, таму колішнія гаспадары лічыліся цяпер фармальна адміністратарамі сваіх маёнткаў, такім чынам, іх сацыяльны статус ад гэтага мала зьмяняўся[69]. Засталося нямала дакумэнтальных ілюстрацыяў таго, як праходзіў гэты працэс, мы, аднак, абмяжуемся толькі трыма, узятымі з тагачасных польскіх крыніц, — яны досыць поўна характарызуюць яго праявы і вынікі.

У ліпені 1941 г. віленскі “Goniec Codzienny” апублікаваў ураджаньні аднаго ўласьніка маёнтку ў Ашмянскім павеце. Ён перад прыходам саветаў схаваўся ў Вільні, а з пачаткам нямецкай акупацыі вярнуўся на сваю зямлю. Па дарозе ён запытаўся ў сустрэчных сялян, куды падзеліся яго каровы, коні і мэбля. Прыбыўшы на месца, ён склікаў мужыкоў і сказаў ім:

— У цябе, Валодзя, — мая сіўка, у цябе, Пецька, — мая гнедая кабыла, а ў цябе, солтыс, — мая жняярка. Каб мне гэта ўсё за гадзіну было на сваім месцы, бо гэта вам не калгасная і ня ваша ўласнасьць, яна заўсёды была мая.

[68] Галяк Л. Успаміны. ЗША, 1982. Т. 1. С. 153.

[69] Krzyżanowski B. Wileński matecznik 1939—1944. Paryż, 1979. S. 47.

— Мы і так ведаем, паночак: што наша, то наша, а што пана, тое вернем. Мы ня хочам нікому крыўды. Як некалі было, так і цяпер будзе. Будзем разам працаваць.
І пачалі памалу, бязь сьпеху, як гэта ў нас звычайна робіцца на Беларусі, звозіць жывёлу і інвэнтар. Дзякуй Богу, што яшчэ змогуць з палеткаў, засеяных увосень ці ўвесну, сабраць жніво — ураджай абяцаў быць багаты.

У дадатак да гэтага паведамленьня “Goniec Codzienny” пісаў, што “такія адносіны цяпер пануюць усюды на Беларусі. Нідзе няма ніякіх сутычак. За гэтым сочаць мясцовыя ўлады, прызначаныя вайсковай камэндатурай”[70].

Не падзяляў гэтай думкі орган падпольнай Дэмакратычнай партыі — “Nowe Drogi”, пішучы наступнае:

...Улетку 1941 г. на апусьцелыя сядзібы пачалі вяртацца “панове”. Адны вярталіся зь цяжкага бяздомнага блуканьня зь вялікім запасам досьведу і развагі. Яны стараліся наладзіць стасункі зь вёскай тактоўна і спакойна, кампрамісна. Але іншыя прыяжджалі разьюшаныя, поўныя помсьлівага запалу, яны прагнулі адплаты за тое, што было. Пачаліся скандальныя сцэны гвалту пры адбіраньні жывога і мёртвага інвэнтару. Ня раз — з зваротам да нямецкіх уладаў па дапамогу пры ўстанаўленьні права ўладаньня. Немцы ахвотна мяшаліся ў справу і “кавалі морды” мужыкам, абараняючы “справядлівыя прэтэнзіі польскага пана”. Мы ведаем прозьвішчы тых людзей, што бачылі ў нямецкім акупанце дабрадзея і абаронцу. У будучыні іх спасьцігне справядлівае і суровае пакараньне. Але факт застаецца фактам: сёньня мы бачым, як віленская вёска, якая за два гады бальшавіцкай улады страціла сымпатыі да камунізму, цяпер нанова пачынае іх набываць. Спрытны агітатар ужо шэпча мужыку: “Хацелі — дык во, смакуйце цяпер наноў сваю «панску Польску»”[71].

“Абуральныя сцэны гвалту”, пра якія пісалі “Nowe Drogi”, не абмяжоўваліся, аднак, толькі “каваньнем морды” мужыкам, у некаторых мясьцінах пацягнулі супрацiў і людзкія ахвяры, пра што восеньню 1941 г. даносіла выведка ЗУБ:

На беларускія тэрыторыі часта вяртаюцца землеўласьнікі пад аховай нямецкай жандармэрыі. Гэта выклікае канфлікты зь сялянамі, у якіх адбіраюць улучаныя ў калгасы фальваркавыя землі і рознае забранае з двара рухомае майно. У аколіцах Ліды на гэтым фоне былі закалоты, жандары застрэлілі больш за дзясятак сялян. Немцы ствараюць бачнасьць, што “вяртаюць Польшчу” і такім спосабам ствараюць антаганізм паміж беларусамі і палякамі[72].

Займаньне пасадаў у мясцовай адміністрацыі і вяртаньне былых паноў у свае фальваркі нямецкая служба бясьпекі расцэньвала як этапы ажыцьцяўленьня адзінага польскага пляну — вяртаньне Заходняй Беларусі пад сваё панаваньне і аднаўленьне даверасьнёўскага *status quo*. Нэўтралізацыя і вывад з гульні самых актыўных беларусаў былі трэцім мэтадам ажыцьцяўленьня гэтага пляну: іх лічылі за палітычных праціўнікаў. Такія настроі падаграваліся прагай помсты за падзеі 1939—1941 г., тут перапляталіся грамадзкія інтарэсы і асабістыя рахункі. Ня дзіва, што ўжо ў першыя дні акупацыі палякі пачалі даносіць на беларусаў, выкрываючы іх сапраўдны або ўяўны бальшавізм[73]. Паводле беларускіх крыніц, такія здарэньні адбываліся на шырокім абшары і былі пры-

[70] Goniec Codzienny. 29.7.1941.
[71] Nowe Drogi. 5.1.1942.
[72] Рапарт “Сыбулта”, 31.10.1941, ЦА ЦК ПАРП, 202/11—22, к. 17.
[73] Ereignismeldungen UdSSR, № 21, 13.7.1941; № 97, 28.9.1941.

чынаю вялікіх ахвяр летам 1941 г., асабліва сярод інтэлігенцыі[74]. Стварылася атмасфэра польскага засільля і антыбеларускага тэрору. Характарызуючы тагачасную сытуацыю ў Вялейскай акрузе, Аляксандар Калодка піша, што пры гэтай атмасфэры “шмат хто з інтэлігенцыі пакінуў акругу, ня бачачы ніякай магчымасьці грамадзкай працы”[75].

У такой сытуацыі імкненьне Астроўскага беларусізаваць адміністрацыю сутыкалася зь вялікімі перашкодамі. У канцы ліпеня пад націскам СД вайсковыя камэндатуры паспрабавалі звольніць з кіраўнічых пасад палякаў і замяніць іх беларусамі. Але гэтая акцыя выклікала незадавальненьне сярод польскага насельніцтва і новыя скаргі, пасьля якіх частку нядаўна нанятых беларусаў пазвальнялі[76]. Падтрымлівала гэтыя тэндэнцыі эндэкаўская “Walka”, якая ўсіх спрэс беларускіх службоўцаў абвінавачвала ў камунізьме[77].

Кампанія па барацьбе зь беларускім актывам рукамі нямецкіх акупантаў узмацняла варожасьць і стварала перашкоды для тых нешматлікіх беларускіх і польскіх групаў, якія шукалі паразуменьня. Не забягаючы наперад у разглядзе падзеяў, вынікам якіх сталі перамовы паміж прадстаўнікамі Галоўнага камандаваньня Арміі Краёвай і Партыі беларускіх нацыяналістаў у Менску ў ліпені 1942 г., варта закрануць пытаньне адказнасьці за гэтыя трагічныя падзеі. Сярод дзяячоў беларускага руху, прычым ня толькі нацыянальнага, але і камуністычнага, жыло перакананьне, што гэту апэрацыю інсьпіравалі польскія ўлады ў Лёндане і іх падпольныя мясцовыя прадстаўнікі[78]. Пазыцыя ПБН, сфармуляваная яе кіраўніком Янкам Станкевічам і прадстаўнічкаю ГК АК Зоф’яй Дабрынскай (“Эвай”), гучала наступным чынам:

Станкевіч (ПБН):

> ...Смутная вайна, у якой гестапа пралівае польска–беларускую кроў, у значнай ступені ідзе па віне мясцовых палякаў. Сярод беларусаў распаўсюдзілася думка, што “двудушнай палітыкай тутэйшых палякаў” кіруе польская цэнтральная ўлада, бо ў розных аддаленых ад сябе мясцовасьцях палякі паводзілі сябе аднолькава пры ўваходжаньні немцаў. Беларусы ўвогуле баяліся трапіць немцам на вочы, затое палякі віталі іх з энтузіязмам, дзякавалі за вызваленьне ад бальшавікоў і запэўнівалі, што толькі палякі — сапраўдныя прыяцелі заходняй культуры і Нямеччыны, маўляў, яна прынесла ім вызваленьне ад прыроджанага ворага — саветаў, у той час як беларусы — гэта натуральныя бальшавікі, якія арыентуюцца на Ўсход. Першая кроў, якая пралілася пры нямецкай акупацыі, была беларуская[79].

Дабрынская (ГК АК):

> Я адказала на гэта, што даю слова гонару, што гэта ня толькі ня акцыя цэнтру, але, наадварот, такія ўчынкі ёсьць здрадай Польшчы, і законныя польскія ўлады пакараюць такіх людзей за

[74] А. К–а [Калодка]. Беларуска–польскія суадносіны ў Вялейшчыне 1941—1944 // Зважай. 1981. № 1(21). Сакавік; Лідзкая акруга падчас нямецкай акупацыі // Беларуская Думка. 1960. № 1. Кастрычнік; Акула К. Змагарныя дарогі. Таронта—Мюнхэн, 1962. С. 14; Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. С. 49—52; Vołacič M. The Population of Western Byelorussia and its Resettlement in Poland and the USSR // Belorussian Review. № 3. Munich, 1956. P. 16.

[75] Калодка А. Пётра Родзевіч у 36 угодкі арышту і 35 угодкі сьмерці // Зважай. 1979. Сакавік. № 1(13).

[76] Ereignismeldungen UdSSR, № 36, 28.7.1941; № 90, 21.9.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721694, 2722485. На падставе гэтых даносаў немцы арыштавалі ў Стоўпцах 19 беларускіх службоўцаў, у т.л. Юр’я Сабалеўскага і Віктара Чабатарэвіча, а ў Валожыне — 22 адміністрацыйных супрацоўнікаў на чале з кіраўніком управы Канстанцінам Касяком. Гл.: Касяк І. З гісторыі Праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью–Ёрк, 1956. С. 119.

[77] Za Bugiem niemieckie nieporządki // Walka. 3.10.1941.

[78] Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Минск, 1951. Т. II. С. 882.

[79] Справаздача “Эвы” аб падарожжы ў Менск на пачатку жніўня 1942 г., CA KC PZPR, 203/VII–45, к. 20.

дзяржаўную здраду... Я папрасіла пералік мясьцінаў, у якіх такія выпадкі мелі месца, а таксама пайменны сьпіс палякаў, якія служаць немцам[80].

Такім чынам, прадстаўнік Галоўнага камандаваньня АК адназначна выказаўся супраць такіх паводзінаў.

На першы погляд, польска–беларускія сутыкненьні ўзьнікалі стыхійна, без удзелу акупантаў, аднак яны выкарыстоўвалі іх ува ўласных інтарэсах, дзеля рэалізацыі вызначанай яшчэ да нападу на СССР праграмы генацыду[81]. Гайдрых, шэф паліцыі бясьпекі і службы бясьпекі райху, ужо зь першых дзён вайны заахвочваў даносы ад розных нацыянальных групаў, аднак распарадзіўся, каб зьнішчальныя акцыі ў першую чаргу скіроўваліся на бальшавікоў і габрэяў, а потым, зь цягам часу, адпаведныя рашэньні будуць прымацца і супраць інтэлігенцыі — польскай ці іншай[82]. Адсюль вынікае, што "падтрымка", якую акупацыйныя ўлады аказвалі палякам і беларусам, была толькі тактычным ходам, разьлічаным на іх узаемнае вынішчэньне і ўзмацненьне нямецкага панаваньня на Беларусі. З гэтага пункту гледжаньня прыведзеныя раней ацэнкі АК і ПБН былі правільныя.

Іх пацьвярджалі пацыфікацыйныя акцыі Вэрмахту і паліцыі на іншых беларускіх землях, дзе не было такога моцнага нацыянальнага напружаньня. У нямецкай дакумэнтацыі мы знойдзем не адзін прыклад таго, як пад лёзунгам барацьбы з савецкімі дзяячамі, дывэрсантамі і т.п. у сапраўднасьці вялося вынішчэньне цывільнага насельніцтва, якое ў вачох акупантаў менш за ўсіх было "вінаватае" ў камуністычнай дзейнасьці або ўвогуле ня мела да яе ніякага дачыненьня. У Менску адразу ж пасьля ўваходу нямецкіх войскаў паводле загаду ваеннага камэнданта быў створаны т.зв. лягер цывільных палонных, куды сагналі ўсіх мужчын — жыхароў гораду ўва ўзросьце ад 18 да 45 гадоў. Лягер прачэсвала тайная вайсковая паліцыя ў супрацоўніцтве з айнзацгрупай, пры гэтым да канца ліпеня вяліся расстрэлы — штодня забівалі каля 200 чалавек. Шукалі нібыта дывэрсантаў, а ліквідавалі галоўным чынам выпадкова адабраных ахвяраў, паводле паліцыйнага рапарту — "функцыянэраў, агентаў, крымінальнікаў, азіятаў і г.д."[83].

Многа нявінных цывільных жыхароў у першыя тыдні акупацыі загінула ў т.зв. пацыфікацыйных акцыях, фармальна прызначаных для ачышчэньня занятых тэрыторыяў ад савецкіх салдат, што хаваліся па лясох. Адна з такіх акцыяў была праведзена ў канцы ліпеня — пачатку жніўня ў заходнім Палесьсі сіламі 1–й брыгады кавалерыі СС, у выніку яе было расстраляна 13 788 "марадэраў". Параўноўваючы гэтую лічбу з колькасьцю нямецкіх стратаў — 2 забітых і 15 параненых, — лёгка прыйсьці да высновы, што акцыя мела неваенны характар. Гэта пацьвярджае і данясеньне аднаго зь яе ўдзельнікаў, камандзіра кавалерыйскага атраду штурмбанфюрэра СС Магіля, які расстраляў 6526 чалавек. "Паколькі атрад не напаткаў ні чырвонаармейцаў, ні камуністаў, расстрэльвалі галоўным чынам габрэяў і людзей, якія займаліся камуністычнай дзейнасьцю", — гаворыцца ў рапарце[84].

У гісторыі акупацыі асобны разьдзел займае зьнішчэньне габрэйскага насельніцтва, якое ў межах сучаснай тэрыторыі рэспублікі складала да вайны 700—750 тыс. чалавек.

---

[80] Тамсама.

[81] Справаздача камісара Менскай акругі ад 23.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T—454, r. 27/1426; Малецкі Я.С. 131, 151, 153.

[82] Адначасовае прызначэньне на адміністрацыйныя пасады беларусаў побач з палякамі ў тых самых рэгіёнах можна было б расцэньваць як распальваньне міжнацыянальных канфліктаў, аднак, на думку аўтара, гэты аргумэнт не пераканаўчы. З аднаго боку, немцы былі вымушаны наймаць на службу палякаў, з другога боку, нельга лічыць правакацыяй імкненьне СД стварыць беларускую адміністрацыю. Аднак у выніку гэта прыводзіла да канфліктных сытуацыяў, якія ішлі на карысьць акупантам.

[83] Ereignismeldungen UdSSR, № 20, 12.7.1941; № 21, 13.7.1941; № 36, 28.7.1941.

[84] Unsere Ehre heisst Treue. Wien—Frankturt—Zürich, 1965. S. 214, 220.

Значная частка габрэяў, асабліва з Усходняй Беларусі, пасьпела эвакуавацца на Ўсход, аднак пераважная іх маса апынулася ў зоне акупацыі. Летам 1941 г. іх загналі ў гета. Паступовая ліквідацыя габрэйскага насельніцтва пачалася восеньню 1941 г., але ўжо ў ліпені і жніўні немцы перайшлі да вынішчэньня габрэйскай інтэлігенцыі, асабліва — настаўнікаў, адвакатаў і савецкіх службоўцаў.

Трэба, нарэшце, адзначыць спэцыфічнасьць сытуацыі, у якой апынуліся беларусы — салдаты Чырвонай Арміі, што трапілі да немцаў у палон. Летам 1941 г. Вярхоўнае камандаваньне Вэрмахту выдала загад аб іх вызваленьні зь лягераў ваеннапалонных, а 8.9.1941 г. пацьвердзіла гэтае распараджэньне, патрабуючы як мага хутчэй адаслаць палонных дадому[85]. У аднолькавай ступені гэта датычыла і палонных іншых нацыянальнасьцяў, асабліва немцаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў і эстонцаў, але не закранала расейцаў, габрэяў і інш. У выніку, тысячы былых чырвонаармейцаў вярнуліся на Беларусь, тут яны некалькі месяцаў маглі жыць цалкам спакойна. У гэты самы час іх таварышы, асабліва расейцы, масава гінулі ў лягерох з голаду, зьнясіленьня і хвароб. Нельга, аднак, адназначна лічыць гэта вынікам пэўнай нацыянальнай палітыкі. На думку Даліна, свой уплыў тут аказвала вялізарная лічба савецкіх ваеннапалонных, якія апынуліся ў нямецкай няволі: у сярэдзіне сьнежня 1941 г. іх налічалася 3,8 млн. чалавек[86].

У часе вайсковага кіраваньня акупацыйныя ўлады не праводзілі на Беларусі сыстэматычнай гаспадарчай дзейнасьці, замест гэтага займаючыся хаатычнымі рэквізыцыямі харчовых прадуктаў. Пагалоўе свойскай жывёлы, асабліва сьвіньняў і кароў, зьменшылася таму яшчэ больш[87]. Вялікія страты панесьлі навуковыя ўстановы, бібліятэкі і музэі, панішчаныя і разрабаваныя Вэрмахтам і СС. Непапраўнай бядою станавіліся акцыі масавага зьнішчэньня, што вяліся ў адпаведнасьці з ідэалягічнымі прынцыпамі гітлерызму.

**Пачаткі акупацыйнай цывільнай адміністрацыі (верасень—сьнежань 1941)**

Праекты новага палітычнага рэжыму на ўсходзе ведамства Розэнбэрга распрацоўвала ўжо з красавіка 1941 г., але да тае пары, пакуль іх не зацьвердзіў бы Гітлер, яны не маглі выкарыстоўвацца на практыцы. Фюрэр тым часам не сьпяшаўся прымаць рашэньне. У сярэдзіне траўня, г.зн. незадоўга да нападу на СССР, ён адклаў “да пазьнейшага разгляду” прапанаваны Розэнбэргам праект дэкрэту аб арганізацыі цывільнай адміністрацыі[88], не пагадзіўся і на перадачу Літвы і Латвіі цывільным уладам, якую плянаваў правесьці Кайтэль ужо пасьля двух тыдняў ад пачатку ваенных дзеяньняў[89]. І толькі 17 ліпеня, калі нямецкія войскі знаходзіліся ў Смаленску, Гітлер выдаў некалькі дэкрэтаў адносна арганізацыі цывільнага кіраўніцтва на акупаваных тэрыторыях СССР. Аднак перадача гэтых земляў цывільным уладам зацягвалася, Гітлер адкладаў гэтае рашэньне на пасьля. Варта зазначыць, што новастворанае міністэрства акупаваных усходніх тэрыторый на чале з Розэнбэргам (Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete — далей RMfdbO, або OMi) першыя чатыры месяцы працавала неафіцыйна, паведамленьне аб яго арганізацыі было распаўсюджана толькі ў сярэдзіне лістапада.

Найпершай умовай увядзеньня цывільнага рэжыму на акупаваных землях было дастатковае аддаленьне лініі фронту. Але для распрацоўкі неабходных дэкрэтаў і распарад-

[85] Anordnung des OKW vom 8.9.1941 über Behandlung sowjeticher Kriegsgefangenen, IMGN // Bd. XXVII, PS–1519. Пад канец лета 1941 г. гэтыя ваеннапалонныя былі вызвалены і адпушчаны дадому. Гл.: Erfahrungs–, Raumungs– und Abschlussbericht für das Generalkommissariat Weissruthenien, 31.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 59/2574951; Vakar. P. 170.

[86] Dallin. P. 409.

[87] Wilpert von F. Die Vorpostenstellung Weissrutheniens // Auf Informationsfahrt im Ostland. Riga, 1944. S. 194.

[88] Ліст Лямэрса да Кайтэля, 20.5.1941, AGKBZN, ATW XI, Dok. Prokuratury. T.XXIX. S. 27.

[89] Dallin. P. 189.

жэньняў гэты фактар ня меў прынцыповага значэньня. Справа вырашалася марудна з палітычных прычын, у прыватнасьці, праз адсутнасьць пэўнай, адназначнай канцэпцыі наконт будучага статусу занятых земляў. Пытаньне "вольных ад Сталіна рэспублік", да якога так часта зьвяртаўся Гітлер у недалёкім мінулым, летам 1941 г. было зьнята з парадку дня бэрлінскай палітыкі. З таго часу фюрэр яўна пазьбягаў якіх–небудзь афіцыйных дэклярацыяў адносна будучыні гэтых земляў, хоць ня раз выказваў сярод найбліжэйшых супрацоўнікаў свае анэксійныя, калянізатарскія і да т.п. пляны[90].

Гітлер імкнуўся поўнасьцю падпарадкаваць сваёй уладзе вырашэньне будучага лёсу ўсходніх народаў і тэрыторый. Ён разьлічваў, што перамога над СССР прыйдзе хутка, і таму ня бачыў патрэбы ў палітычным супрацоўніцтве з насельніцтвам занятых земляў. Гэтыя меркаваньні ляглі ў падмурак арганізацыі і дзейнасьці акупацыйнага цывільнага кіраўніцтва. Такім чынам, замест папярэдне заплянаваных адміністрацыйных адзінак — Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны — дэкрэт Гітлера ад 17 ліпеня прадугледжваў стварэньне новых райхскамісарыятаў на чале зь нямецкімі чыноўнікамі[91]. На думку Мадайчыка, гэта азначала, што Гітлер адмовіўся ад ідэі пераўтварэньня гэтых земляў у васальныя тэрыторыі на карысьць беспасярэдняга, поўнага нямецкага панаваньня каляніяльнага тыпу[92].

Напачатку быў створаны райхскамісарыят Остлянд зь сядзібаю ў Рызе. Узначаліў яго прызначаны Гітлерам райхскамісар Гінрых Лёзэ. У склад Остлянду ўвайшлі прыбалтыйскія краіны — Літва, Латвія, Эстонія, а разам зь імі — Беларусь, якая яшчэ ў чэрвені, паводле пляну Розэнбэрга, павінна была вылучыцца ў асобную адміністрацыйную адзінку[93]. Цяжка сказаць дакладна, чаму адбылося гэтае аб'яднаньне. Дакумэнтальныя архівы міністэрства Розэнбэрга не даюць на гэта адказу. Паводле апублікаваных пасьля вайны ўспамінаў Ота Бройтыгама, кіраўніка палітычнага аддзелу ў гэтым міністэрстве, ідэя злучэньня прыбалтыйскіх краін і Беларусі ў адным райхскамісарыяце Остлянд нарадзілася з імкненьня стварыць на ўсходзе больш–менш роўныя па велічыні і значэньні адміністрацыйныя адзінкі. Бо інакш, пры захаваньні адасобленасьці паміж Прыбалтыкай і Беларусьсю, узьніклі б дыспрапорцыі ў параўнаньні зь вялікім райхскамісарыятам Украіна[94].

І сапраўды, нялёгка знайсьці нейкія іншыя матывы такога аб'яднаньня: паміж Прыбалтыкай і Беларусьсю існавала шмат адрозьненьняў у многіх галінах. Карэньні гэтых адрозьненьняў сягалі ў гісторыю міжваеннага дваццацігодзьдзя. У гэты пэрыяд Літва, Латвія і Эстонія існавалі як асобныя самастойныя дзяржавы. Усходняя Беларусь тады ўваходзіла ў склад СССР, а яе заходнія землі былі часткаю Польшчы. Адсюль вынікала неаднароднасьць гаспадарчых структур, якая не пасьпела зьнікнуць за час кароткага існаваньня савецкай улады перад гітлераўскім нашэсьцем. Немалую розьніцу можна было назіраць і ў этнічным складзе тутэйшага жыхарства, і ў яго нацыянальнай сьвядомасьці.

Такім чынам, Остлянд быў задуманы як штучнае аб'яднаньне разнародных тэрыторыяў. Гэты факт усьведамлялі на ўсіх ступенях нямецкай чыноўнай герархіі. Асабліва важкія прычыны для незадавальненьня такой сытуацыяй былі ў Лёзэ — ён беспасярэдне адказваў перад бэрлінскім кіраўніцтвам за дзейнасьць адміністрацыі на гэтых землях. У сваім

---

[90] Aktenvermerk vom 16.7.1941 über eine Besprechung Hitlers mit Rosenberg, Lammers, Keitel und Göring aufgezeichnet von einem unbekannten Teilnehmer, IMGN // Bd. XXXVIII, dok. 221–L, S. 86.

[91] Erlass des Führers über die Verwaltung der neu besetzten Ostgebiete vom 17. Juli 1941 // Herzog R. Grundzüge der deutschen Besatzungsverwaltung in den ost– und südeuropäischen Ländern während des zweiten Weltkrieges. Tübingen, 1955. S. 170.

[92] Madajczyk. S. 547.

[93] Erster Erlass des Führers über die Einführung der Zivilverwaltung in den neu besetzten Ostgebieten vom 17. Juli 1941 // Herzog. S. 172.

[94] Bräutigam O. Überblick über die besetzten Ostgebiete während des 2. Weltkrieges. Tübingen, 1954. S. 4.

артыкуле, апублікаваным у студзені 1942 г., ён сцьвярджаў, што трэба ўлічваць тэрытарыяльную неаднароднасьць і адпаведна прыстасоўваць тактыку адміністрацыі — на Беларусі яна павінна быць інакшая, чым у Прыбалтыцы[95]. У траўні 1944 г., г.зн. напрыканцы акупацыі, аб'яднаньне гэтых дзьвюх земляў Лёзэ ацаніў як "вельмі шкоднае"[96]. У Бэрліне таксама ставіліся адмоўна да гэтага зьліцьця. Ужо ў кастрычніку 1941 г. Розэнбэрг адзначаў, што райхскамісарыяты — гэта часовае адміністрацыйнае рашэньне, а ў сярэдзіне 1942 г. сцьвярджаў, што саюз Беларусі і Прыбалтыкі існуе да пары[97].

Апрача таго, паўставала спэцыфічнае пытаньне прызначэньня гэтых тэрыторыяў у нямецкіх пэрспэктыўных плянах. Паводле праекту, апрацаванага Розэнбэргам і зацьверджанага Гітлерам 16 ліпеня 1941 г., Прыбалтыка ў будучыні павінна была стаць нямецкай правінцыяй[98]. Так лічылася да канца акупацыі[99]. Затое будучыня Беларусі не была прадвызначана канчаткова і адназначна[100]. Адсутнасьць пэўнай, акрэсьленай канцэпцыі ў нямецкіх кіраўнічых колах дала падставу для ўзьнікненьня ў пазьнейшай пасьляваеннай літаратуры разнастайных поглядаў на гэтае пытаньне: адны дасьледчыкі меркавалі, што зь цягам часу Беларусь стала б часткаю Нямеччыны, іншыя ўважалі яе за калёнію.

У гэтых адносінах заслугоўвае ўвагі кампэтэнтнае сьведчаньне генэральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ. Ён нават летам 1943 г. ня ведаў, які лёс быў прызначаны зямлі, што знаходзілася пад яго кіраўніцтвам. 12 жніўня 1943 г. Кубэ пісаў:

> Вырашэньне праблемы, прадстаўленай у дэкрэце пана міністра ўсходніх акупаваных земляў райху ад 14.11.1942 г. — 11.1е.296, — на маю думку, залежыць ад асноўнай перадумовы, а менавіта — ад палітычнага рашэньня наконт будучыні беларускай тэрыторыі. Трывалае далучэньне беларускіх земляў да нямецкай жыцьцёвай прасторы вымагала б, натуральна, куды больш інтэнсіўнага пашырэньня адміністрацыі, чым у выпадку, калі б гэты абшар, як перадпольле нямецкага райху, заставаўся зьвязаны зь ім толькі цераз базы з айчыны, або калі б на першы плян ставілася як мага большая яго эксплюатацыя. Адсутнасьць такога палітычнага рашэньня адносна будучыні Беларусі робіцца тормазам у плянаваным праўленьні, дый увогуле ў любым плянаваньні[101].

Праблемы, пра якія гаварыў Кубэ: далучэньне да Нямеччыны, буфэрная зямля (Vorland), калёнія ці нешта іншае — так і не былі вырашаны фармальна да канца акупацыі. Беларусь увайшла ў склад Остлянду як тэрыторыя зь неакрэсьленым палітычным прызначэньнем.

Нарэшце, трэцім пытаньнем, якое не было вырашана ў пэрыяд арганізацыі цывільнай адміністрацыі, стала вызначэньне будучых межаў Беларусі. Паводле праекту, апрацаванага ў чэрвені 1941 г. ведамствам Розэнбэрга, з даваеннай тэрыторыі БССР павінны былі адысьці часткі Берасьцейскай, Пінскай, Палескай і Гомельскай абласьцёў. У часе ваеннага праўленьня яны апынуліся ў тыле групы армій "Поўдзень", а пасьля пераходу на цывільную адміністрацыю павінны былі ўвайсьці ў райхскамісарыят Украіна. Невялікая частка Вялейскай вобласьці адначасова далучалася да Літвы. Заплянаванае

---

95 Lohse H. Ostland baut auf // Nazionalsozialistische Monatshefte. Januar, 1942, S. 35

96 Ліст Лёзэ да Гітлера, 31.5.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 15/040.

97 Niederschrift über die Chefbesprechung am 30.10.1941 im RMfdbO über Landesplanung im Ostraum, ibid, T–454, r. 20/1123; "Новая Дарога".1942. 21 чэрвеня.

98 Aktenvermerk vom 16.7.1941...

99 Ліст Лёзэ да Гітлера, 31.5.1944...

100 Гэтае пытаньне больш падрабязна асьветлена ў арт.: Turonek J. Status Białorusi w Komisariacie Rzeszy Ostland // Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej. T.XX. Ossolineum, 1984. S. 168—169.

101 Ліст Кубэ да Лёзэ, 12.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 23/473.

пашырэньне межаў Беларусі на ўсходзе не кампэнсавала гэтых стратаў. Улічваючы ўсе зьмены, тэрытарыяльны статус Беларусі ў будучыні павінен быў выглядаць наступным чынам:

**Табліца 5.** Плянаваная ў чэрвені 1941 г. плошча генэральнай акругі Беларусі

| | Тэрыторыя (тыс. км$^2$) | Насельніцтва (млн. чал.) |
|---|---|---|
| Стан на пачатак 1941 г. | 235,0 | 10,60 |
| Страты на карысьць Украіны і Літвы | 44,0 | 2,15 |
| Набыткі на ўсходзе | 34,3 | 1,40 |
| Плянаваная плошча | 225,3 | 9,85 |

*Крыніца:* Статыстычная выкладка да прамовы Розэнбэрга ад 20.6.1941 г., AAN, mf. aleks, T–454, r. 26/1059.

Але і гэты праект Розэнбэрга не ажыцьцявіўся. 12 ліпеня Гітлер загадаў вывесьці з складу БССР Беластоцкую акругу і сваім дэкрэтам ад 22 ліпеня перадаў яе обэрпрэзыдэнту ўсходняпрускай правінцыі Эрыху Коху. Гэтае рашэньне павялічыла тэрытарыяльныя страты БССР да 68,0 тыс. км$^2$ — на 30% ад даваеннага абшару Беларускай ССР. Шкоду ад гэтых зьменаў міністэрства Розэнбэрга спрабавала прылагодзіць шляхам далучэньня да Беларусі новых земляў на ўсходзе агульнай плошчаю больш за 50 тыс. км$^2$. Такім чынам, акрэсьлены гэтым міністэрствам абшар генэральнай акругі Беларусі займаў плошчу 210,5 тыс. км$^2$ з насельніцтвам каля 9 млн. чалавек[102]. На гэтых землях плянавалася стварыць 39 акруг (*Kreisgebiete*), аб'яднаных у галоўныя акругі (*Hauptgebiete*) — Менскую, Баранавіцкую, Магілёўскую, Смаленскую і Віцебскую[103].

Гэтыя пастановы Гітлер ухваліў толькі часткова. Ён пагадзіўся менавіта з далучэньнем паўднёвых раёнаў Беларусі да райхскамісарыяту Украіна, але так і ня вызначыў свайго стаўленьня да нарошчваньня яе тэрыторыі на ўсходзе. У выніку, у міністэрстве Розэнбэрга адмовіліся ад плянаў перанясеньня межаў Беларусі на ўсход і з таго часу (сьнежань 1941 г.) лічылі, што даваенная граніца паміж БССР і РСФСР і цяпер павінна аддзяляць беларускі абшар ад расейскага[104].

Шэфам цывільнай адміністрацыі на Беларусі Гітлер прызначыў 17 ліпеня 1941 г. Вільгельма Кубэ[105]. Перад ім адкрывалася "маляўнічая" пэрспэктыва: працаваць у "самым нязьведаным краі Эўропы" зь неакрэсьленай тэрыторыяй і палітычнай будучыняй, штучна і да пары зьвязаным з Прыбалтыкай. Неўзабаве зьявілася да таго ж і ўсьведамленьне складанай нацыянальнай сытуацыі ў давераным яму рэгіёне.

Нетыповыя абставіны, таксама як і нетыповыя паводзіны самога Кубэ на пасадзе генэральнага камісара, вымушаюць бліжэй прыгледзецца да гэтай галоўнай дзейнай асобы акупацыйнай гісторыі Беларусі.

Вільгельм Кубэ нарадзіўся 13.11.1887 г. у горадзе Глогаў на Одэры ў эвангелісцкай сям'і. Бацька Вільгельма, Рыхард, прафэсійны вайсковец — унтэр–афіцэр, неўзабаве перабраўся ў Бэрлін і працаваў там зборшчыкам падаткаў. Тут Вільгельм вучыўся ў пачатковай школе і гуманітарнай гімназіі *Zum Grauen Kloster*. У 1908—1912 г. ён вывучаў гісторыю і дзяржаўнае права ў Бэрлінскім унівэрсытэце. Кубэ быў адным з стваральнікаў Нямецкага нацыянальнага студэнцкага саюзу, а ў 1911—1914 г. узначаль-

---

[102] Engelhardt. S. 277; Mende von G. Das Reichskommissariat Ostland // Jahrbuch der Weltpolitik. Berlin, 1942. S. 164.

[103] Lohse. Ostland baut auf // Nationalsozialistische Monatshefte. Januar, 1942. S. 33; Mende. S. 164.

[104] У гэты час Смаленшчыну ўжо трактавалі як "заслон супраць беларускага шавінізму". Гл.: Ereignismeldung UdSSR. № 145. 12.12.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 234/2723390.

[105] Загад аб прызначэньні ад 17.7.1941 г., AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/674.

ваў яго і рэдагаваў “Deutschvölkische Hochschulblätter”[106].

У 1911 г. Кубэ ўступіў у Нямецкую сацыяльную партыю, а ў наступным годзе стаў рэдактарам “Mecklenburgische Warte” ў Вісмары. Але неўзабаве выйшаў з гэтай партыі і стаў сябрам Нямецкай кансэрватыўнай партыі. Да 1919 г. быў яе акруговым сакратаром у г. Брэслаў, рэдагаваў “Schlesische Morgenzeitung” і супрацоўнічаў з рэдакцыяй “Schlesische Boten”. У 1917 г. ён правёў тры тыдні ў казармах у якасьці ляндштурмана, але быў адкліканы адтуль сваёй партыяй.

Пасьля паразы Нямеччыны Кубэ парывае з кансэрватарамі. У 1919 г. ён удзельнічае ў стварэньні Нямецкай нацыянальнай народнай партыі, хутка становіцца генэральным сакратаром яе акруговай арганізацыі ў Сылезіі, а з 1920 г. — у Бэрліне, дзе, апрача таго, у 1922—1923 г. выконвае абавязкі гарадзкога дэпутата. Аднак і гэтая партыя пачынае здавацца Кубэ недастаткова баявой. У 1923 г. ён пакідае яе і супольна зь сябрамі забароненай нацысцкай партыі стварае Нацыянал–сацыялістычную партыю свабоды, а праз год зь яе рук атрымлівае мандат пасла Райхстагу і выступае абаронцам Нацыянал–сацыялістычнай рабочай партыі Нямеччыны (НСРПН) 1.12.1927 г. Кубэ ўступіў у гэтую партыю, якая на той час пасьпела стаць легальнай, і ўжо праз некалькі тыдняў за заслугі перад нацыянал–сацыялістычным рухам Гітлер прызначыў яго гаўляйтэрам усходняй маркі (акругі) — *Ostmark*. Тут Кубэ разгарнуў актыўную палітычную дзейнасьць, у выніку якой колькасьць сяброў НСРПН у гэтым рэгіёне паднялася з 66 чалавек у 1928 г. да 10 000 у 1931 г., і ў 1933 г. дасягнула 80 000. Адначасова ён становіцца рэдактарам “Der Märkische Adler” і робіць яго рупарам сваёй партыі.

У траўні 1928 г. Кубэ абралі дэпутатам прускага Ляндтагу, тут ён з даручэньня Гітлера прыступіў да кіраўніцтва фракцыяй нацыянал–сацыялістаў. Дзейнасьць Кубэ ў Ляндтагу адыграла важную ролю ў перамозе гітлераўскай партыі ў Нямеччыне. Вялікай заслугай Кубэ было скасаваньне 27.9.1928 г. забароны на публічныя выступленьні Гітлера ў межах Прусіі. Асабістыя якасьці Кубэ — яго красамоўнасьць і талент аргумэнтатара — мелі пры гэтым вырашальнае значэньне, бо на той час фракцыю нацыянал–сацыялістаў прадстаўлялі ў Ляндтагу ўсяго шэсьць паслоў. Гітлер ніколі не забываў гэтай паслугі.

Пасьля перамогі НСРПН 25.3.1933 г. Кубэ заняў пасаду обэрпрэзыдэнта Бэрліна і Брандэнбургіі, а 1.6.1933 г. стаў гаўляйтэрам акругі Курмарк, утворанай пасьля аб’яднаньня ранейшых партыйных акруг Остмарк і Брандэнбургіі. У 1933—1936 г. ён быў дэпутатам Райхстагу, прускім дзяржаўным дарадцам, чальцом Акадэміі нямецкага права, экспэртам у галіне гісторыі раньняга пэрыяду, выконваў іншыя дзяржаўныя абавязкі. І ў дадатак — займаўся літаратурнай творчасьцю і публіцыстыкай[107].

Хоць Кубэ ўважалі за пераканнанага антысэміта, у красавіку 1936 г. ён выслаў вярхоўнаму судзьдзі НСРПН райхсканцлеру Вальтэру Буху ананімны ліст, у якім абвінаваціў яго ў перасьледзе габрэяў, адначасова спасылаючыся на сэміцкае паходжаньне яго жонкі. Гэта была ўскосная атака супраць яе зяця, Марціна Бормана. Пасьля таго, як гестапа ўстанавіла імя аўтара гэтага ананімнага ліста, Кубэ быў вымушаны пакінуць дзяржаўныя і партыйныя пасады. Аднак, паводле распараджэньня Гітлера, ён застаўся сябрам партыі і Райхстагу, захаваўшы сымбалічны тытул гаўляйтэра. Па сут-

---

[106] Прыведзеная тут кароткая біяграфія Кубэ была апрацавана на падставе: Wer ist’s. выд. X, Berlin, 1935; Neue Deutsche Biographie. Bd. XIII. München, 1982. S. 156—157; Heiber H. Aus den Akten des Gauleiters Kube // Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. 1956. Heft I; Hüttenberger P. Die Gauleiter. Studie zum Wandel des Machtgefüges in der NSDAP. Stuttgart, 1969. S. 200—215.

[107] Сьпіс найважнейшых працаў Кубэ, выдадзеных у 1919—1933 г., зьмешчаны ў “Neue Deutsche Biographie”, Bd. XIII... Асаблівай увагі заслугоўвае драма Кубэ “Таціла” (Totila. Historische Schauspiegel), выдадзеная ў 1920 г. і перавыдадзеная ў 1933 г.

насьці, на пяць гадоў ён сышоў з палітычнай сцэны[108].

Прызначэньне Кубэ на пасаду генэральнага камісара Беларусі ў найвышэйшых колах бэрлінскіх палітыкаў выклікала сапраўдную сэнсацыю. Вільфрэд фон Овэн, блізкі супрацоўнік Гёбэльса, пасьля вайны напісаў, што гэтае прызначэньне "адлюстроўвала ўсю неразважлівасьць і легкадумнасьць нашай так званай усходняй палітыкі"[109]. Супраць такога рашэньня выступаў і Розэнбэрг, але Лямэрс паведаміў яму, што Гітлер настойвае на прызначэньні Кубэ[110]. Лёзэ супраціўляўся перад ім зь іншых прычынаў: ён вельмі добра ведаў "рэзкі, імпульсіўны і поўны супярэчнасьцяў характар" свайго сябра Кубэ і таму баяўся, што яго дзейнасьць на пасадзе генэральнага камісара Беларусі можа стаць прычынай сур'ёзных непаразуменьняў і канфліктаў[111].

Для высьвятленьня сапраўдных матываў гэтага рашэньня Гітлера не стае дакумэнтальных доказаў. Паводле ацэнак, прызначэньне Кубэ на другарадную пасаду ў Менску азначала, што яму стварылі магчымасьць для рэабілітацыі[112], але гэты аргумэнт блякне перад фактам — Гітлер зьбіраўся прызначыць яго райхскамісарам у Маскве, г.зн. даверыць самую высокую пасаду на ўсходзе[113]. У будаўніцтве такіх гіпотэз важна ўлічваць, што Кубэ атрымаў сваё прызначэньне выключна дзякуючы падтрымцы Гітлера, прычым адбылося яно насуперак жаданьням іншых бэрлінскіх тузоў. Такім чынам, гэта была моцная падтрымка.

У службовым становішчы Кубэ гэтая акалічнасьць адыгрывала важную ролю. Перад ім паўставалі на Беларусі складаныя адміністрацыйныя і палітычныя праблемы, таму ён атрымаў шырэйшыя прэрагатывы, чым генэральныя камісары ў прыбалтыйскіх краінах. Ужо 5 ліпеня Розэнбэрг запэўніваў Лямэрса, што пазыцыя генэральнага камісара Беларусі Кубэ, кіраўніка абшару ледзь не з 11–мільённым насельніцтвам, будзе раўназначная пазыцыі райхскамісара[114]. Магчыма, Розэнбэрг пры гэтым улічваў, што Беларусь толькі да пары будзе зьвязана з Прыбалтыкай.

Цывільная адміністрацыя на тэрыторыі Остлянду ўводзілася паступова: з 5 жніўня (Літва) — да 5 сьнежня (Эстонія). Тэрмін залежаў ад аддаленасьці лініі фронту. Але на цэнтральным яго ўчастку панавала такая сытуацыя, што камандаваньне Вэрмахту стрымлівала перадачу цывільным уладам усяго абшару генэральнай акругі Беларусі. З 1 верасьня 1941 г. Кубэ пераняў уладу толькі над яе заходняй часткаю разам зь Менскам, але значна большая — усходняя — засталася пад кіраўніцтвам арміі, перадача гэтых земляў цывільным уладам залежала ад посьпехаў на фронце. Але пасьля разгрому Вэрмахту пад Масквой і зімовага контранаступу Чырвонай Арміі лінія фронту наблізілася да паўночна–ўсходніх граніц Беларусі, і пэрспэктыва перадачы гэтага абшару цывільнай адміністрацыі аддалілася.

---

[108] Райтлінджэр (Reitlinger. P. 156) піша, што Гітлер загадаў на кароткі час зьмясьціць Кубэ ў канцлягер. І сапраўды, ён быў у канцлягеры Дахаў, але ня вязьнем, а камандзірам вартаўнікоў, і тое — толькі на два месяцы. Гл. паказаньні Карла Цэнэра, былога камандзіра СС і паліцыі ў Менску, дадзеныя ў Нюрнбэргу 3.11.1947 г., якія грунтаваліся на сьведчаньні самога Кубэ. AGKBZH, ATW IX, Dok. obrony. T. X. S. 160. Гл. таксама: Ліст Гімлера да Гайдрыха ад 26.11.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, R–66/ 2582158—2582161.

[109] Oven, von W. Finale furioso. Mit Goebbels bis zum Ende. Tübingen, 1974. S. 140. Такое выказваньне адлюстроўвала непрыязныя адносіны паміж Гёбэльсам і Кубэ. Справа ў тым, што Кубэ дазволіў сабе публічна крытыкаваць кнігу Гёбэльса "Vom Kaiserhof zur Reichskanzlei", акрэсьліўшы яе як "Я — аб сабе". Гл.: Memoirs of Alfred Rosenberg. Chicago—New–York, 1949. P. 163.

[110] Bräutigam. S. 7—8.

[111] Паказаньні Лёзэ ад 23.10.1947 г. // AGKBZH, ATW IX, Dok. obrony. T. X. S. 200. На гэта ўказвае і памылковая вэрсія Райтлінджэра, нібыта прызначэньне Кубэ адбылося па просьбе Лёзэ. Гл.: Reitlinger. P. 157.

[112] Bräutigam. S. 7—8.

[113] Aktenvermerk vom 16.7.1941...

[114] Ліст Розэнбэрга да Лямэрса, 5.7.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 86/1126; Dallin. P. 203.

Узьнікла, такім чынам, своеасаблівая сытуацыя. Тэрытарыяльныя абрысы Генэральнай акругі Беларусі фармальна не зьмяніліся з канца 1941 г., але насамрэч кампэтэнцыя яго генэральнага камісара распаўсюджвалася толькі на заходнюю частку гэтага абшару, перададзеную цывільным уладам.

Пасьля таго, як на карысьць Літвы з гэтага абшару адыйшлі тры паветы (Эйшышкі, Ашмяны і Сьвір), гэты абшар меў плошчу 53,7 тыс. км$^2$ і падзяляўся на 11 акруг, прычым Менск утвараў асобную гарадзкую акругу (гл. табл. 6). Было запраектавана 5 галоўных акруг, але ўтворана толькі дзьве — у Менску і Баранавічах. Тэарэтычна генэральная акруга Беларусь на 75% складалася з тэрыторыяў, якія да верасьня 1939 г. належалі СССР (altsowjetische Gebiete), на практыцы тая частка акругі, якою кіраваў Кубэ, на 78% складалася з раёнаў, якія ў міжваеннае дваццацігодзьдзе належалі Польшчы (altpolnische Gebiete).

На працягу верасьня на гэтых землях быў створаны апарат акупацыйнай цывільнай адміністрацыі, які замяніў сабой ранейшыя вайсковыя ўлады. Гэты апарат тэарэтычна складаўся з трох ступеняў. Найвышэйшай яго інстанцыяй быў генэральны камісарыят у Менску, якім кіраваў Кубэ. Ён быў беспасярэдне падпарадкаваны райхскамісарыяту Остлянд у Рызе. Сярэднюю ступень цывільнай адміністрацыі ўтваралі галоўныя камісарыяты (Hauptkommissariate) у Менску і Баранавічах, але вялікай ролі яны не адыгрывалі, і ў сакавіку 1943 г. іх распусьцілі. Найніжэйшую нямецкай адміністрацыі складалі гарадзкі камісарыят (Stadtkomissariatte) у Менску і 10 акруговых камісарыятаў (Gebietskommissariate). На працягу трох гадоў акупацыі кіраўнікамі гэтых мясцовых упраў былі:

| **Галоўныя камісарыяты** | **Галоўны камісар** |
|---|---|
| Менск | Паўльсан |
| Баранавічы | Фрыдрых Фэнц |
| Гарадзкі камісарыят Менск | Гарадзкі камісар Янэцке; з канца 1943 г. — Е.Е. Бэкер |
| **Акруговыя камісарыяты** | **Акруговы камісар** |
| Менск | д–р Ганс Кайзэр, д–р Людвіг Эрэнляйтнэр; Вільгельм Зэльман, |
| Барысаў | Баўэр, Бушман, д–р Ганс Кайзэр |
| Слуцак | Гайнрых Карл |
| Баранавічы | Рудольф Вэрнэр |
| Глыбокае | Паўль Гахман |
| Ганцавічы | Вілі Мюлер, Вальтэр Гёрт |
| Ліда | фон Ганвэг, Артур Геніг |
| Наваградак | Вільгельм Траўб, д–р Альфрэд Гіле |
| Слонім | Гергард Эрэн |
| Вялейка | Шміт, Густаў Магас |

Глыбокія пераўтварэньні адбыліся і ў структуры паліцыйных уладаў. За час вайсковай адміністрацыі ў гэтай галіне ажыцьцяўлялі галоўнакамандуючы СС і паліцыі (Höhere SS–und Polizeiführer, далей — HSSPF) цэнтральнага ўчастку фронту фон дэм Бах і шэф айнзацгрупы Б Нэбэ. У Прыбалтыцы гэта былі HSSPF паўночнага ўчастку фронту групэнфюрэр СС Пруцман і шэф айнзацгрупы А брыгадэнфюрэр СС д–р Вальтэр Сталекер, іх штаб–кватэры знаходзіліся ў Рызе. Пасьля перадачы заходняй часткі Беларусі цывільнай адміністрацыі ўладу над паліцыяй на гэтых землях трымаў Пруцман — HSSPF Остлянду (у сьнежні 1941 г. на гэтай пасадзе яго зьмяніў групэнфюрэр СС Екельн). У гэты час ува ўсходняй частцы Беларусі, якая па–ранейшаму заставалася ў зоне вайсковай адміністрацыі, паліцыйнымі ўладамі працягваў кіраваць Бах. Свой штаб ён перанёс з Баранавічаў у Магілёў. Працаю службы бясьпекі (СД) у Остляндзе, у т.л. і ў заходняй частцы Беларусі, перададзенай цывільным уладам, кіраваў Сталекер. На ўсходзе яна па–ранейшаму заставалася ў распараджэньні айнзацгрупы Б.

**Табліца 6.** Адміністрацыйная структура генэральнай акругі Беларусі пад цывільнай адміністрацыяй

| Акругі | Плошча (км²) | Насельніцтва (тыс. чал.)* | Колькасьць паветаў | Колькасьць воласьцяў |
|---|---|---|---|---|
| Да 17.9.1939 г. у межах СССР | | | | |
| горад Менск | 42 | 103,1 | – | – |
| Менская | 5429 | 304,2 | 9 | 95 |
| Барысаўская | 1248 | 32,7 | 5 | 15 |
| Слуцкая | 5242 | 220,6 | 8 | 65 |
| Да 17.9.1939 г. у межах Польшчы | | | | |
| Баранавіцкая | 5694 | 341,5 | 7 | 78 |
| Глыбоцкая | 8746 | 340,2 | 10 | 41 |
| Ганцавіцкая | 6085 | 114,6 | 4 | 31 |
| Лідзкая | 4641 | 278,5 | 8 | 32 |
| Наваградзкая | 4301 | 194,5 | 5 | 55 |
| Слонімская | 4704 | 171,6 | 5 | 25 |
| Вялейская | 7530 | 299,6 | 8 | 45 |
| Разам | 53 662 | 2411,3** | 69 | 482 |

* Стан на канец 1942 — пачатак 1943 г.

** Каля 10000 жыхароў ня ўлічаны пры падзеле на акругі.

*Крыніца:* “Ostland” (Рыга). 1944. № 8. S. 7.

На ўзроўні генэральнага камісарыяту паліцыйную інстанцыю ўзначальваў камандуючы СС і паліцыі (SS–und Polizeiführer, далей — SSPF), яму падпарадкоўваліся ахоўныя войскі СС, паліцыя парадку і — да пэўнай ступені — паліцыя і служба бясьпекі. Абавязкі SSPF у Менску выконваў брыгадэнфюрэр СС Карл Цэнэр. Ён дзейнічаў на гэтай пасадзе ад пачатку ўвядзеньня цывільнага рэжыму да ліпеня 1942 г. Згодна з дэкрэтам Гітлера ад 17 ліпеня 1942 г. адносна дзейнасьці паліцыі на ўсходзе, і HSSPF, і SSPF беспасярэдне і асабіста былі падпарадкаваныя адпаведна райхскамісару і генэральнаму камісару, а паліцыйныя чыны ніжэйшага ўзроўню — акруговым камісарам[115]. Аднак гэты самы дэкрэт пастанаўляў, што паліцыйнае забесьпячэньне на ўсходніх акупаваных землях знаходзіцца ў кампэтэнцыі райхсфюрэра СС і шэфа нямецкай паліцыі, г.зн. Гімлера, які атрымліваў цяпер права даваць райхскамісарам адпаведныя ўказаньні.

Недастатковае разьмежаваньне паўнамоцтваў у гэтай галіне стварыла няпростую сытуацыю. Як піша Мадайчык,

> вышэйшае камандаваньне СС і паліцыі хоць і было прыпісана да штабаў райхскамісараў, аднак удзельнічала ў іх фармальна. Затое спэцыяльныя паўнамоцтвы паліцыі на гэтых тэрыторыях выклікалі ў яе камандзіраў розных рангаў адчуваньне, што менавіта ім павінны падпарадкоўвацца камісары, а не наадварот[116].

Гэта пачуцьце ўзмацнялася яшчэ і тым, што камандаваньне СС і паліцыі ў асноўных галінах сваёй дзейнасьці было цалкам падпарадкавана Гімлеру, а гэта выключала магчымасьць умяшаньня цывільных уладаў. Такім чынам, паліцыя ўтварала сваю, практычна незалежную ад цывільнай адміністрацыі, сыстэму кіраваньня[117].

Ня лепш выглядалі магчымасьці цывільнай адміністрацыі на Беларусі і ў іншых важных галінах. Дэкрэт Гітлера ад 17 ліпеня, закранаючы гаспадарчыя пытаньні, пацьь-

[115] Erlass des Führers über die polizeiliche Sicherung der neu besetzten Ostgebiete vom 17.7.1941; Herzog. S. 175.

[116] Madajczyk Cz. ... S. 566.

[117] Загорулько М., Юденков А. Крах экономических планов фашистской Германии на временно оккупированной территории СССР. Москва, 1970. С. 57.

вердзіў ранейшыя паўнамоцтвы Гёрынга — упаўнаважанага за рэалізацыю чатырохгадовага пляну — і пакінуў яго на чале ўсіх інстанцыяў, адказных за эксплюатацыю акупаваных усходніх земляў, у т.л. і тых, што былі перададзеныя цывільным уладам. Падпарадкаваньне гаспадарчых службаў (ландвіртшафтсфюрэраў, зондэрфюрэраў і інш.) зьмянілася толькі фармальна. У часе вайсковай адміністрацыі яны дзейнічалі ў рамках вайсковых камэндатур, а цяпер увайшлі ў склад генэральнага і акруговых камісарыятаў. Аднак заданьні для іх вызначаў Гёрынг, а Кубэ і падначалены яму апарат павінны былі толькі рэалізоўваць яго ўказаньні.

Дэкрэт ад 17 ліпеня выводзіў з кампэтэнцыі мясцовых цывільных уладаў таксама дзейнасьць чыгункі і пошты. Не падпарадкоўваліся ім і вайсковыя камэндатуры. Яны па-ранейшаму працягвалі сваю працу, але цяпер кола іх дзейнасьці звузілася да справаў выключна вайсковых — аховы камунікацыйных шляхоў, ваеннапалонных і г.д. Камэндатуры нярэдка дапамагалі цывільным уладам у выкананьні гаспадарчых заданьняў — прымусова спаганялі зь мясцовага насельніцтва харчовыя паставы. Супрацоўнічалі яны і з паліцыяй, бралі супольны ўдзел у карных акцыях. У Кубэ не было шырокіх магчымасьцяў і ў галіне прапаганды. Тут гаспадарылі т.зв. прапагандысцкія кіраўнікі, якіх прысылала ў Менскі генэральны камісарыят міністэрства Розэнбэрга. Яны дзейнічалі ў адпаведнасьці зь яго інструкцыямі, узгодненымі да таго ж зь міністэрствам прапаганды Гёбэльса.

Спэцыфіка беларускіх земляў значна ўплывала на дзейнасьць цывільнай адміністрацыі, яна ўскладняла выдачу распараджэньняў для гэтых тэрыторыяў ня толькі міністэрству Розэнбэрга ў Бэрліне, але і райхскамісарыяту ў Рызе. На гэтых землях у самых розных галінах панавала такая неаднароднасьць, што даводзілася выдаваць асобныя дэкрэты і загады для “altsowjetische Gebiete”, іншыя — для Заходняй Беларусі. Аднак звычайна ў фармулёўках праўных дакумэнтаў, якія датычылі Беларусі, значылася ўся тэрыторыя генэральнай акругі зь перавагай колішніх савецкіх земляў, а ня тая частка, што была перададзена фактычна цывільным уладам. Пры такой сытуацыі большасьць бэрлінскіх дэкрэтаў і распараджэньняў, якімі рэгулявалася дзейнасьць акупацыйнай адміністрацыі ў Остляндзе, не датычыла Беларусі — для яе былі прадугледжаны асобныя дырэктывы. Тое самае можна сказаць і пра інструкцыі райхскамісарыяту ў Рызе, у большасьці сваёй яны датычылі генэральных акруг Прыбалтыкі.

У такіх складаных умовах заканадаўства часта супярэчыла жыцьцёвай практыцы. Тыповым прыкладам можа паслужыць адно зь першых распараджэньняў райхскамісара ў Остляндзе ад 13 верасьня 1941 г. адносна скасаваньня вынікаў савецкай зямельнай рэформы. Гэты дэкрэт меў праўную моц толькі на тэрыторыі Літвы, Латвіі і Эстоніі, але не закранаў былой Заходняй Беларусі, хоць там зямельная рэформа была праведзена ня шмат раней, чым у краінах Прыбалтыкі, а калектывізацыя сельскай гаспадаркі знаходзілася ў пачатковай фазе. Вырашальны ўплыў тут аказаў агульны характар Генэральнай акругі Беларусі, у якім пераважала калектыўная гаспадарка — акупацыйныя ўлады зьбіраліся яе захаваць. Але і бяз праўнай базы вынікі савецкай рэформы былі ліквідаваныя, г.зн. калгасы распаліся.

Закладзеная дэкрэтамі Гітлера сыстэма паралельнага кіраўніцтва ў спалучэньні зь мясцовымі спэцыфічнымі ўмовамі не дазваляла апарату акупацыйнай улады на Беларусі працаваць скаардынавана і эфэктыўна. Пра гэта сьведчыць самастойная дзейнасьць арміі, паліцыі, гаспадарчых і будаўнічых арганізацыяў, дарожных службаў і г.д. У гэтых і іншых галінах новая цывільная адміністрацыя была практычна бездапаможная. Бэрлінскія тузы ня бачылі тут неспадзяванкі: яны разьлічвалі на блізкую перамогу, таму для новых цывільных уладаў былі вызначаны толькі дачасныя мэтады і задачы. Кубэ сьведчыў, што прыступіў да кіраўніцтва адміністрацыяй на Беларусі, атрымаўшы толькі самыя агульныя дырэктывы: “Прыстасаваньне і выкарыстаньне тэрыторыі для нямецкай ваеннай гаспадаркі”, — пры гэтым замест падрабязных інструкцыяў трэба было кіравацца лёзунгам:

“Усё, што ты зробіш для Нямеччыны, — добра, усё іншае — кепска”[118].

Няма сумненьня ў тым, што Кубэ ў сваёй дзейнасьці на Беларусі перш за ўсё кіраваўся інтарэсамі Нямеччыны, але моцная асабістая пазыцыя, якую забясьпечвала яму падтрымка Гітлера, дазваляла трактаваць па–свойму гэтыя інтарэсы. Аднак, нягледзячы на шматгадовы палітычны досьвед, задачы, перад якімі ён апынуўся на Беларусі, Кубэ назваў беспрэцэдэнтнымі[119]. Край, куды накіраваў яго Гітлер, ня меў традыцыяў дзяржаўнай самастойнасьці, вынікам чаго быў нізкі ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці беларускага насельніцтва, слабасьць яго сэпаратысцкіх імкненьняў і моцныя культурна–палітычныя ўплывы з польскага і расейскага боку. Асабліва выяўна сьведчыў аб гэтым нацыянальны склад мясцовай цывільнай адміністрацыі — ён вельмі слаба адпавядаў краю, які павінен быў прадстаўляць. Да названага дапаўнялася розьніца ў сацыяльна–эканамічным становішчы ўва Усходняй і Заходняй Беларусі, што зьявілася вынікам іх знаходжаньня ў міжваенны пэрыяд у складзе СССР і Польшчы. Таму Кубэ не выпадкова заўважыў: “Беларусь была найперш у самым сапраўдным значэньні гэтага слова ня больш як імглістым геаграфічным паняцьцем”[120].

Назіраньні Кубэ пацьвярджалі ранейшыя паліцыйныя данясеньні, што прыходзілі ў Бэрлін. У іх адзначаўся слабы нацыянальны патэнцыял беларусаў. Таму Розэнбэрг, які на падрыхтоўчым этапе да нападу на СССР ня верыў у магчымасьці беларускага нацыяналізму, восеньню 1941 г. быў яшчэ менш схільны даваць рэкамэндацыі па вырашэньні беларускага пытаньня ў рамках “новага парадку”. Зьвязаны зь міністэрствам Розэнбэрга штомесячнік “Deutsche Post aus dem Osten” сьцьвярджаў на гэты конт у лістападзе:

> Увогуле, будучнасьць беларускай, або крывіцкай, нацыянальнасьці пакуль стаіць пад пытальнікам, а на думку скептыкаў — знаходзіцца цалкам пад сумненьнем... Час пакажа, ці знойдзе беларускае, або крывіцкае, нацыянальнае пытаньне сваё канчатковае вырашэньне ў цяперашні момант[121].

Упэўненасьць у слабасьці беларускага нацыяналізму прывяла вярхоўных кіраўнікоў міністэрства Розэнбэрга да перакананьня, што ён ня стане пагражаць нямецкім інтарэсам, таму дапускалася магчымасьць яго ўзмацненьня. Менавіта ў такім палітычным кантэксьце звычайна асьвятляецца роля Кубэ ў дзейнасьці акупацыйнага цывільнага рэжыму на ўсходзе. Пэтэр Кляйст, былы загадчык аддзелу Остлянду ў ОМі, пісаў пасьля вайны, што задачаю Кубэ ў асноўным лічылася барацьба з расейскімі і польскімі ўплывамі на Беларусі[122] і ў вычэкваньні пастановы Бэрліна ў пытаньні будучыні гэтай часткі “падбрушша” трэцяга райху.

Двухгадовая дзейнасьць Кубэ на Беларусі грунтавалася на адным зыходным прынцыпе і была скіравана ў адным напрамку — да здабыцьця сымпатыяў у насельніцтва шляхам пэўных саступак у галіне культуры і палітыкі, а таксама ўпарадкаваньня эканомікі. Неабходна падкрэсьліць, што гэты курс на паразуменьне з грамадзтвам быў вынікам яго асабістага перакананьня, а не інструкцыяў ОМі або вынікам дзейнасьці савецкага руху супраціву — увосень 1941 г. гэты рух не ствараў яшчэ асаблівай небясьпекі на беларускай тэрыторыі. У адрозьненьне ад Эрыха Коха, які зьбіраўся на Ўкраіне кіраваць “з дапамогай махоркі, гарэлкі і нагайкі”[123], Кубэ абвясьціў на пачатку сваёй дзейнасьці

[118] Ліст Кубэ да Мэера, 27.7.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 84/1322.
[119] Kube W. Weissruthenien: Ein Jahr Zivilverwaltung // Deutsche Zeitung im Ostland. 30.8.1942.
[120] Тамсама.
[121] Meyer P. Die Weissruthenen. Ein bisher ungelöstes ostslavisches Volksproblem // Deutsche Post aus dem Osten. 1941. November. № 11.
[122] Kleist P. Zwischen Hitler und Stalin 1935—1945. Bonn, 1950. S. 170.
[123] Thorwald J. Wenn sie verderben wollen. Bericht des grossen Verrats. Stuttgart, 1952. S. 42.

ў Менску, што зьверне асаблівую ўвагу на разьвіцьцё культуры[124].

Першым нарматыўным актам, выдадзеным Кубэ ў гэтай справе, былі часовыя інструкцыі ад 10.9.1941 г., паводле якіх для ўсіх дзяцей, апрача габрэйскіх, ува ўзросьце ад 7 да 14 гадоў уводзілася абавязковае школьнае навучаньне. Мясцовая адміністрацыя з 1 кастрычніка 1941 г. павінна была адчыніць пачатковыя школы з наступнай праграмай: родная мова, прыродазнаўства (батаніка і заалёгія), арытмэтыка, геаграфія, сьпевы, рукадзельле, гімнастыка. Выкладаньне рэлігіі, як каталіцкай, так і праваслаўнай, магло весьціся па–за школай[125]. Галоўны акцэнт часовыя інструкцыі ставілі на выхаваньне моладзі ў духу гітлераўскай "Новай Эўропы" і пагражалі суровымі карамі за распаўсюджаньне ў школах савецкай або польскай ідэалёгіі. Нагляд за дзейнасьцю школаў ажыцьцяўляў генэральны камісарыят у Менску і акруговыя камісарыяты, у рамках якіх ствараліся беларускія школьныя інспэктараты[126].

Школьніцтва было першым важным крокам Кубэ на шляху да рэалізацыі яго палітычных плянаў. Выданьнем часовых школьных інструкцыяў ён падкрэсьліваў, што Генэральная акруга Беларусь — жыцьцёвая прастора беларускага народу і ў першую чаргу менавіта гэтаму народу павінна служыць. Задачаю школаў станавілася разьвіцьцё беларускай культуры, выхаваньня і асьветы, засвойваць гэта павінна была і моладзь нацменшасьцяў — палякаў і расейцаў. У інструкцыях зазначалася, што асноўнай мовай навучаньня павінна быць беларуская, але ў мясцовасьцях, дзе пераважала польскае насельніцтва, дапускалася існаваньне школаў з польскай мовай навучаньня, аднак і ў іх беларуская заставалася абавязковым прадметам з аб'ёмам выкладаньня 6 гадзінаў на тыдзень. Затое не было школаў з расейскай мовай навучаньня. У студзені 1942 г. у Менску пачало выходзіць пэрыядычнае выданьне "Беларуская Школа" ў дзьвюх сэрыях — для вучняў і для настаўнікаў. Яно павінна было часткова замяніць савецкія падручнікі, якія былі выведзены з школьнага ужытку.

Нягледзячы на цяжкасьці з кадрамі і памяшканьнямі (частка школьных будынкаў была занята войскамі), а таксама на недахоп падручнікаў, колькасьць пачатковых школаў на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі хутка ўзрастала і пад канец 1941/42 навучальнага году дасягнула 3485. У іх навучалася 346 тыс. вучняў і працавала 9716 настаўнікаў[127]. Гэтыя колькасныя паказчыкі, здаецца, ня вельмі адрозьніваліся ад даваенных лічбаў за 1940/41 г. на адпаведнай тэрыторыі Беларусі[128]. Трэба дадаць, што распрацаваная Кубэ сяміклясная сыстэма навучаньня перавышала патрабаваньні інструкцыяў ОМі, выдадзеных, праўда, крыху пазьней. Для акупаваных савецкіх земляў (апрача Прыбалтыкі) там прадугледжвалася адкрыцьцё толькі чатырохклясных пачатковых школаў[129]. Затое праект Кубэ саступаў сыстэме школьніцтва ў Прыбалтыцы, дзе працавалі таксама сярэднія школы і некаторыя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Наступнай дэклярацыяй Кубэ была адозва "Да жыхароў Беларусі", абвешчаная ў Менску 22.9.1941 г. Перамога Нямеччыны патэтычна абвяшчалася ў ёй адбытым фактам, дэкляраваліся адбудова ваенных разбурэньняў, дабрабыт і забясьпечаная будучнасьць беларускага народу ў рамках новага эўрапейскага парадку, акупацыйная цывільная адміністрацыя называлася прыяцелем гэтага народу, ахоўнікам справядлівага парадку і выпрабаваным будаўніком усеагульнага дабрабыту. Далей адозва заклікала:

---

[124] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 17.9.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 21/668.

[125] Amtstblatt des Generalkommissars für Weissruthenien. 13.10.1941.

[126] Тамсама.

[127] Раніца. 1942. 25 сьнежня.

[128] У параўнаньні з БССР 1940/41 г. (у сучасных межах) на долю генэральнай акругі пад цывільнай адміністрацыяй прыпадала 26% ад яе тэрыторыі, 26% — насельніцтва, 27% — ад агульнай колькасьці школаў, 22,5% — ад агульнай лічбы вучняў.

[129] Інструкцыя RMfdbO для РКО і РКУ ад 12.12.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 20/871.

Беларусы! Першы раз у вашай гісторыі перамога Нямеччыны дае вам магчымасьць забясьпечаньня вашаму народу свабоднага разьвіцьця і сьветлай будучыні без расійска–азіяцка–бальшавіцкага ўціску і чужанацыянальнага панаваньня. Я спадзяюся, што кожны з вас зразумее, што яго інтарэсы сьцісла зьвязаны з інтарэсамі Германіі і што вы будзеце вернымі пасьлядоўцамі і памочнікамі нямецкага кіраўніцтва[130].

Адозва Кубэ адыходзіла далей ад пашыраных у прапагандзе Вэрмахту зацертых фраз пра “вызваленьне ад бальшавізму” і імкнулася разгарнуць перад беларускім народам дадатную пэрспэктыву, якая адкрывалася для яго з усталяваньнем нямецкай акупацыі. Апрача чыстай прапаганды, у адозьве Кубэ, найвышэйшага прадстаўніка нямецкай улады на Беларусі, былі выказаны дэкларацыі свабоднага разьвіцьця краю без староньняга панаваньня і агульнасьці нямецка–беларускіх інтарэсаў. Варта падкрэсьліць, што гэтыя заявы закраналі такія пытаньні нямецкай палітыкі, пра якія маўчаў афіцыйны Бэрлін. Можна таму меркаваць, што яны рабіліся бяз санкцыяў Розэнбэрга, і, нягледзячы на асьцярожнасьць фармулёвак, былі рэдкім зьявішчам на акупаванай тэрыторыі СССР.

Тым ня менш запэўненьні Кубэ ў прыязнасьці, справядлівасьці і адзінстве інтарэсаў рэзка супярэчылі рэчаіснасьці: незалежныя ад яго ўлады часьці Вэрмахту і СС чынілі забойствы, рабункі і бессэнсоўныя разбурэньні ўжо пасьля ўвядзеньня цывільнага рэжыму. Гэта перакрэсьлівала ўсе пэрспэктывы палітыкі, скіраванай на здабыцьцё сымпатыяў мясцовага насельніцтва. Разыходжаньне ў поглядах на задачы акупацыі выявілася адразу ж пасьля прыезду Кубэ ў Менск. Узьніклі спрэчкі вакол кіраваньня гаспадаркай, рабункаў, зьнішчэньня твораў мастацтва і ліквідацыі габрэйскага насельніцтва. Тры прыведзеныя ніжэй дакумэнты — два зь іх выкарыстоўваліся як доказы на Нюрнбэрскім працэсе — сьведчаць пра ўмяшальніцтва Кубэ ў гэтыя справы і ёсьць важным матэрыялам для агульнай ацэнкі яго палітыкі на Беларусі, а таксама стаўленьня да СС.

*Дакумэнт 1:* Ліст Кубэ да Лёзэ ад 3.10.1941 г.

У дадатак перасылаю табе для прыняцьця далейшых захадаў зьняты паводле майго даручэньня плякат ад 6.9.1941 (тэкст плякату: “Зрэквізавана” за подпісам HSSPF Пруцмана. — *Ю.Т.*). Не паведаміўшы мне, СС пасьпешліва праводзіць рэквізыцыі на Беларусі. Асаблівую важнасьць мае рашэньне міністэрства або райхскамісара наконт базаў СС. Калі гэтыя базы будуць абсталёўвацца так, як прадугледжвае СС, дык хутка яна стане гаспадаром усіх непашкоджаных і зручна разьмешчаных частак гораду, а цывільная адміністрацыя акажацца госьцем фармаваньня, якое выкарыстоўвае любыя магчымасьці, каб крочыць уласным шляхам. Будаваць плян гораду ў такой сытуацыі цывільнае кіраўніцтва проста ня зможа. Настойліва прашу прадухіліць гэтыя непрыемныя акалічнасьці. Увогуле, справы і дзейнасьць паліцыі павінны быць так адрэгуляваны, каб цывільная адміністрацыя мела выключнае права выдаваць ёй распараджэньні. Брыгадэнфюрэр СС Цэнэр, які дзеля ўзмацненьня свайго прэстыжу стаў генэрал–маёрам паліцыі, сьцьвярджае пры кожнай нагодзе, што мае спэцыяльныя інструкцыі райхсфюрэра СС, якіх, аднак, мне не паказвае. Так працаваць немагчыма.

Вэрмахт таксама распараджаецца цывільнымі справамі і абураецца, калі яму робяць заўвагі аб недапушчальнасьці такіх паводзін. Пара ўжо нарэшце адназначна падпарадкаваць гаспадарку цывільнай адміністрацыі. Тут (г.зн. — на Беларусі. — *Ю.Т.*) СС, Вэрмахт і Люфтвафэ папросту рэквізавалі сабе вялікую колькасьць гаспадарчых прадпрыемстваў, калгасаў і імі ўва ўсю распараджаюцца. Рэшткі, пакінутыя цывільнай адміністрацыі, армія забірае на свае патрэбы, так што да бліжэйшага жніва пагалоўе жывёлы, сыравіна і ўсё неабходнае няўхільна будзе зьнішчана. Мы яшчэ ня маем уплыву на менскую бойню, бо OKH (галоўнае камандаваньне сухадольных войскаў. — *Ю.Т.*) заяўляе на гэтую бойню выключнае права. Таксама і радыёзавод працуе

[130] Раніца. 1941. 10 лістапада.

выключна на Люфтвафэ. Усё гэта абмяжоўвае нашу дзейнасьць. Калі ў найбліжэйшы час гэтыя справы ня высьветляцца, цывільнае кіраўніцтва стане папросту гумарыстычным давескам, на які будуць глядзець, як на перашкоду ў далейшым рабаваньні краю[131].

*Дакумэнт 2:* Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 29.9.1941 г.

Сёньня, пасьля доўгіх пошукаў, я магу нарэшце знайсьці і ацаніць рэшткі мастацкіх скарбаў Менску. У горадзе існавала вялікая, а часткаю — вельмі каштоўная, калекцыя твораў мастацтва і карцін, якая амаль поўнасьцю была вывезена зь Менску. На загад райхсфюрэра СС, райхсьляйтэра Генрыха Гімлера большасьць карцін — часткаю ўжо пасьля майго ўступленьня на пасаду — была запакавана эсэсаўцамі і вывезена ў райх. Прытым гаворка ідзе пра мільённыя каштоўнасьці, якія былі забраныя ад генэральнай акругі Беларусі. Карціны павінны былі быць высланы ў Лінц і Кёнігсбэрг ува Ўсходняй Прусіі. Прашу гэтыя каштоўныя зборы, калі яны непатрэбныя райху, вярнуць у распараджэньне генэральнай акругі Беларусі, у любым выпадку іх матэрыяльную вартасьць перавесьці на рахунак міністэрства акупаваных усходніх земляў.
Паводле выказваньняў аднаго маёра 707–й дывізіі, які перадаў мне рэшткі гэтых збораў, астатнія карціны і прадметы мастацтва, у т.л. і найбольш каштоўныя карціны, мэбля XVIII і XIX ст., вазы, рэчы з мармуру, гадзіньнікі і да т.п. СС перадало Вэрмахту для наступнага разрабаваньня. Генэрал Штубэнраўх (шэф палявой камэндатуры № 184 у Менску. — *Ю.Т.*) найбольш каштоўную частку вывез зь Менску ў апэрацыйную зону. Зондэрфюрэры, якіх я яшчэ ня мог зарэгістраваць, вывезьлі (без вопісу) тры грузавыя машыны з мэбляй, карцінамі і прадметамі мастацтва. Я распарадзіўся высьветліць гэтыя часьці, каб пакараць вінаватых, якія нясуць адказнасьць за рабунак. Мясцовыя заставы Вэрмахту і СС выбралі без майго дазволу з засталых рэштак наступныя рэчы і абразы, якія, аднак, яшчэ маглі б заставацца ў Менску.
Для рэстаўрацыі часта бяз сэнсу пашкоджаных нажамі карцін прашу прыслаць сюды нацыянал–сацыялістычнага мастака Вілі Спрынгера, Бэрлін СВ 29, Газэнгейдэ, 94; каб пад яго кіраўніцтвам магло быць выратавана тое, што яшчэ можна ўратаваць. На жаль, шматлікія каштоўныя вазы, фарфор, шафы і стылёвая мэбля XVIII ст. таксама былі значна пашкоджаныя або зьнішчаныя. Усё разам складае неацэнныя каштоўнасьці, вартыя мільёнаў марак. Я прашу на будучыню міністэрства ўсходу хадайнічаць перад адказнымі асобамі Вэрмахту для прадухіленьня падобных зьнішчэньняў, а таксама для самага суворага пакараньня вінаватых.
Музэй дагістарычнай археалёгіі таксама знаходзіцца ў стане поўнага спусташэньня. У геалягічным аддзеле разрабаваны каштоўныя і паўкаштоўныя камяні. Ува ўнівэрсытэце былі бессэнсоўна паразьбіваны або забраны інструмэнты на сотні тысяч марак. Можа, было б пажадана, каб Вы, спадар райхсьляйтэр, паведамілі пра гэта фюрэру. У выніку такога абыходжаньня і без таго бедная Беларусь панесла найцяжэйшыя страты...[132]

У дадатак да працытаванага ліста Кубэ выслаў рапарт шарагоўца Абэля пра становішча менскіх бібліятэк пасьля таго, як іх спустошыў Вэрмахт. Заканчваўся ён наступным чынам:

Гэты рапарт дасягне сваёй мэты толькі тады, калі будзе пададзены найвышэйшаму кіраўніцтву і калі будуць неадкладна выдадзены загады, якія не дазволяць нямецкаму салдату ў будучым паводзіць сябе, як барбару.

*Дакумэнт 3:* Фрагмэнты справаздачы акруговага камісара ў Слуцку Карла генэральнаму камісару ў Менску ад 30.10.1941 г. пра масавую расправу з габрэямі ў Слуцку.

Зь непамернай жорсткасьцю нямецкія паліцыянты і асабліва літоўскія партызаны (гаворка ідзе

[131] Ліст Кубэ да Лёзэ, 3.10.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/670—671.
[132] Ліст Кубэ да Розэнбэрга, 29.9.1941, IMGN, Bd. XXV, 076–PS, S. 145—147.

пра літоўскія паліцыйныя часьці на службе ў немцаў. — *Ю.Т.*) выцягвалі з хат і зганялі габрэяў, а сярод іх і беларусаў. Паўсюдна ў горадзе стаяла страляніна, на паасобных вуліцах ляжалі трупы забітых габрэяў. Беларусам зь вялікімі цяжкасьцямі ўдавалася пазбыцца абвінавачваньняў. Ня кажучы аб тым, што з габрэяў, у тым ліку і з рамесьнікаў, зьдзекаваліся на вачох у беларусаў, дык і саміх беларусаў білі гумовымі палкамі і прыкладамі карабінаў. Гэта была ўжо не жыдоўская акцыя, а выглядала хутчэй як рэвалюцыя. Я сам увесь час знаходзіўся разам з усімі сваімі супрацоўнікамі пасярод гэтага, каб яшчэ ратаваць, што толькі ўдасца. Шмат разоў мне даводзілася літаральна з настаўленым рэвальвэрам выцягваць з майстэрняў нямецкіх паліцыянтаў, а таксама літоўскіх партызан. Такое самае даручэньне атрымала і мая жандармэрыя, аднак з–за дзікай страляніны яна мусіла шмат разоў пакідаць вуліцы, каб ня быць расстралянай... Беларускае насельніцтва, якое нам поўнасьцю давярала, цяпер жахаецца. І хоць запалоханыя людзі не адважваюцца свабодна выказаць свае думкі, аднак чутны ўжо меркаваньні, што гэты дзень ня стане ганаровай старонкай нямецкай гісторыі, але і забыты ён ня будзе таксама. Я лічу, што гэтай акцыяй было зьнішчана шмат з таго, што нам удалося дасягнуць за апошнія месяцы, і што пройдзе багата часу, пакуль мы вернем страчаны ў насельніцтва давер[133].

1 лістапада Кубэ выслаў справаздачу Карла да Лёзэ і Розэнбэрга, адначасова прапаноўваючы распачаць судовы працэс над усім афіцэрскім корпусам паліцыйнага батальёну — выканаўцам слуцкай масавай расправы. Пратэстуючы супраць забойства габрэйскіх рамесьнікаў, ён пісаў:

Такімі мэтадамі нельга ўтрымаць на Беларусі спакой і парадак. Тое, што цяжка параненыя былі пахаваны жыўцом, а потым вылезьлі з магіл, — гэта такое бязьмежнае сьвінства, што пра гэтую падзею трэба было б проста паведаміць фюрэру і райхсмаршалу. Цывільная адміністрацыя на Беларусі прыкладае велізарныя намаганьні, каб, згодна з указаньнямі фюрэра і міністра райху (Розэнбэрга. — *Ю.Т.*), здабыць сымпатыі ў мясцовага насельніцтва. Але гэтыя стараньні ня могуць суіснаваць і мірыцца з апісанымі вышэй мэтадамі[134].

Паводзіны Кубэ былі прадыктаваныя імкненьнем наладзіць супрацоўніцтва зь мясцовым насельніцтвам, ён лічыў, што гэта — асноўная ўмова, безь якой немагчымы посьпех у любых распачынаньнях акупацыйных уладаў. Адсюль і яго спробы спыніць бязьлітасныя і хаатычныя харчовыя рэквізыцыі, якія войска працягвала праводзіць таксама і пасьля ўвядзеньня цывільнага рэжыму. На гэта былі скіраваны і клопаты пра стан беларускіх музэяў і навуковых установаў, і стараньні запэўніць бясьпеку працаўнікам мясцовай адміністрацыі. У гэтай астатняй справе завязаўся ў сьнежні 1941 г. востры канфлікт з камандуючым Вэрмахту ў генэральнай акрузе Беларусі генэралам Бэхтальдсгаймам, пасьля таго, як нямецкія салдаты расстралялі бурмістра м. Негарэлае Менскай акругі, якога западозрылі ў сувязях з партызанамі. Кубэ і тут патрабаваў пакараць вінаватых, указваючы, што, калі пагадзіцца з падобнай практыкай, аніводзін беларускі бурмістар не захоча працаваць у цывільнай акупацыйнай управе[135]. Яшчэ ў ліпені 1943 г. ён дакараў шэфа менскага СД за садысцкія зьдзекі з трох беларусак, хоць сам гэты факт меў месца ў канцы 1941 г.[136]. І гэта мела сваё палітычнае значэньне ня толькі з увагі на вялікі час, які прайшоў, але і соцень тысяч ахвяр гітлераўскага тэрору на Беларусі.

[133] Справаздача камісара Слуцкай акругі генэральнаму камісару ў Менску, 30.10.1941, IMGN, Bd. XXVII, 1104 —PS, S. 4—8.
[134] Ibidem. S. 2—3.
[134] Ліст Кубэ да Лёзэ ад 13.12.1941; Ліст Розэнбэрга да Лёзэ ад 31.12.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 26/810—812, 816.
[136] Рапарт камандзіра паліцыі бясьпекі і СД у Менску Штраўха. Гл.: Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. 1954. Heft 1. S. 79.

Аднак асабліва пільнага разгляду патрабуюць адносіны Кубэ да вынішчэньня габрэяў. Далін лічыць, што яго перасьцярогі і супраціў гэтай кампаніі дыктаваліся толькі эканамічнымі і палітычнымі матывамі, бо пераважную частку беларускага рамесьніцтва складалі габрэі, а мэтады іх зьнішчэньня выклікалі непажаданыя антынямецкія настроі сярод беларускага грамадзтва[137]. Насамрэч пазыцыя Кубэ ў гэтым пытаньні не выглядала так адназначна. Як стары дзяяч партыі нацыянал–сацыялістаў і адзін з тэарэтыкаў антысэмітызму ён не выступаў афіцыйна супраць самога прынцыпу зьнішчэньня габрэяў і часта карыстаўся антысэміцкай фразэалёгіяй. Аднак менавіта на Беларусі тэорыя ўступіла ў канфрантацыю з жудаснай рэчаіснасьцю, і тут — паводле вобразнага вызначэньня Гэльмута Гайбэра — вучань чарнакніжніка жахнуўся, пабачыўшы, якіх духаў ён наклікаў[138].

Таму, не выступаючы супраць асноўнага ідэалягічнага прынцыпу гітлерызму, Кубэ імкнуўся абмежаваць маштабы масавага забойства габрэяў. Перш за ўсё ён стараўся адцягнуць рэалізацыю гэтай акцыі, выстаўляючы розныя гаспадарчыя і палітычныя прычыны. Зьвяртаўся таксама да Гайдрыха наконт дэпартаваных нямецкіх габрэяў, прыгадваў іх часткова арыйскае паходжаньне і заслугі перад Нямеччынай у якасьці франтавых салдат першай сусьветнай вайны[139]. Надзіва гэтыя паўмеры на практыцы мелі посьпех. Варта прывесьці тут сьведчаньне шэфа СД Остлянду, які ў сваім рапарце падае наступную статыстыку забітых і пакінутых у гета габрэяў у генэральных акругах пад канец студзеня 1942 г. (гл. табл. 7).

**Табліца 7.** Кампанія па ліквідацыі габрэяў у райхскамісарыяце Остлянд

| Генэральныя акругі | Забіта | Пакінута | Разам |
|---|---|---|---|
| Эстонія | 963 | | 963 |
| Латвія | 35283 | 2500 | 37738 |
| Літва | 136 421 | 19500 | 155921 |
| Беларусь | 41 828 | 128 000 | 169828 |

*Крыніца:* Undatierte Geheimbericht über die von Einsatzgruppe A durchgeführte Massenmordung, IMGN, t. XXX, 2273–PS, p. 77. Преступные цели — преступные средства. Москва, 1968. С. 93.

Паводле гэтых зьвестак, да прыходу вясны 1942 г. у Эстоніі былі зьнішчаны ўсе, зрэшты, нешматлікія, габрэі. У Латвіі іх засталося толькі 7%, у Літве — 12%, затое на Беларусі — 75%. Такі ж высокі працэнт падаецца і ў другім рапарце СД у лютым 1942 г.[140]. Ува Ўсходняй Беларусі, якая не знаходзілася пад кіраўніцтвам Кубэ, вынішчэньне габрэяў таксама ішло значна хутчэй[141]. Такім чынам, да прыходу вясны 1942 г. перададзеная ў распараджэньне цывільных уладаў генэральная акруга Беларусі займала ў гэтай кампаніі выключнае становішча. Тактыка Кубэ дазволіла дзясяткам тысяч габрэяў уцячы з гета ў лясы, дала ім шанец для захаваньня жыцьця. Гэтай акалічнасьці не ўлічыў Далін.

Пазыцыя Кубэ ў разгледжаных пытаньнях супярэчыла плянам Гімлера, які рэагаваў на гэта вельмі востра. Ён перакрэсьліў патрабаваньні перадаць у рукі цывільных уладаў усю беларускую гаспадарку, згадваючы, што “спадар Кубэ толькі два месяцы праслужыў у войсках СС вартаўніком і ня мае паняцьця аб салдацкіх праблемах, аб дапамозе арміі і яе забесьпячэньні”[142]. Што датычыць адказнасьці за рабункі і зьнішчэньне твораў мас-

[137] Dallin. P. 205—206.

[138] Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. 1956. Heft 1. S. 68.

[139] Heiber. S. 74—75.

[140] Tätigkeits– und Lagebericht № 9 der Eisatzgruppen der Sipo und SD, 27.2.1942, IMGN, Bd. XXX, 3876 — PS.

[141] Reitlinger. P. 156.

[142] Ліст Лямэрса да Гайдрыха ад 26.11.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 66/2582158.

тацтва, дык і тут яго адказ гучаў сувора: “З боку спадара Кубэ я раз і назаўсёды прашу вызваліць мяне ад падобнага нахабства”[143]. У дадатак у вачох Гімлера, СС і Вэрмахту Кубэ набыў славу “прыяцеля габрэяў”[144]. Так, ужо пад канец 1941 г. паміж Кубэ і Гімлерам зь яго магутным ведамствам абазначылася варожасьць.

Спробы здабыць сымпатыі мясцовага насельніцтва таксама не прынесьлі для Кубэ плёну. Склад адміністрацыйнага апарату, створанага за час існаваньня вайсковай адміністрацыі, амаль не зьмяніўся — не хапала адпаведных беларускіх кадраў. Гэта было часовае становішча: тут усё залежала ад падрыхтоўкі беларускіх спэцыялістаў. Польскі характар захоўвала ня толькі мясцовая, асабліва гарадзкая, адміністрацыя, але і Каталіцкая царква і памешчыцкія маёнткі, апрача таго існавала пэўная колькасьць школаў з польскай мовай навучаньня[145].

Былі адзначаны выпадкі, калі ў школах, намінальна беларускіх, заняткі адбываліся на т.зв. “дапаможнай” польскай мове, бо не хапала адпаведных настаўнікаў[146]. Тагачасную сытуацыю ў заходнебеларускіх землях Браніслаў Кжыжаноўскі акрэсьліў ляканічна: “Остлянд на Беларусі быў польскі”[147]. У пэўнай ступені гэта было справядлівае выказваньне, тым ня менш польскія палітычныя колы непрыхільна ставіліся да лініі, якую праводзіў Кубэ. Яго лёзунг “Беларусь для беларусаў” і абвешчаны курс на беларусізацыю краю перакрэсьлівалі ў іх вачох значэньне гэтых здабыткаў, а супярэчнасьці паміж уласнымі канчатковымі мэтамі і інтарэсамі Нямеччыны ўсё больш падштурхоўвалі палякаў у лягер апазыцыі супраць немцаў і беларусаў. У выніку, ужо ўвосень 1941 г. пачалі ўзьнікаць першыя падпольныя структуры ЗУБ[148].

Праўда, у дэклярацыях Кубэ беларусам аддавалася перавага, але гэта не магло сур’ёзна зьмяніць кадравую сытуацыю, што ўсталявалася за час існаваньня вайсковай адміністрацыі. Акупацыйныя ўлады не пераставалі адчуваць недахоп беларускіх спэцыялістаў, якія б мелі здольнасьці ці жаданьне ўдзельнічаць у розных галінах грамадзкага жыцьця. Асабліва гэта датычыла аховы грамадзкага парадку і бясьпекі. Аб выніках такой сытуацыі гаворыцца ў рапарце СД:

> Паколькі ў распараджэньне Вэрмахту і паліцыі трапіла вельмі мала беларусаў, якім можна было б даручыць заданьні мясцовай службы парадку, давялося зьвярнуцца да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў і даручыць ім гэтае заданьне. Мабілізацыя латыскіх, літоўскіх і ўкраінскіх атрадаў, а таксама прызначэньне палякаў на пасады бурмістраў, камандзіраў ахоўных службаў, апекуноў вялікіх зямельных маёнткаў і т.п., якое ажыцьцяўляў Вэрмахт, а потым зацьвердзіла цывільная адміністрацыя, — усё гэта выклікала сярод нешматлікіх сьвядомых беларусаў вялікае расчараваньне. Прызнаньне ўласнай бездапаможнасьці і немагчымасьці стварыць сваімі сіламі службы аховы парадку і бясьпекі павялічыла сярод сьвядомых беларусаў пачуцьцё непаўнацэннасьці. У выніку, частка зь іх пакінула тыя нешматлікія камунальныя ўстановы, дзе іх часова наймалі[149].

---

143 Тамсама.

144 Паказаньні Лёзэ ад 23.10.1947 г. С. 202, 204; Рапарт Штраўха ад 25.7.1943 г. аб Кубэ // Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte, 1956. Heft 1. S. 80.

145 Так, напрыклад, у Вялейскай акрузе каля паловы школаў у канцы 1941 г. было з польскай мовай навучаньня // Беларуская Школа. 1942. Студзень. Падобная сытуацыя панавала і ў Лідзкай акрузе.

146 Справаздача камісара Глыбоцкай акругі ад 16.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, г. 102/287.

147 Krzyżanowski. S. 47.

148 Праўдзіц–Шляскі піша, што сваё прызначэньне на пасаду камандзіра Наваградзкай акругі ЗУБ ён атрымаў 1.9.1941 г. Гл. яго працу: Nowogródczyzna w walce 1940—1945. Londyn, 1976. S. 37. Аднак ужо ў ліпені—жніўні на тэрыторыі Заходняй Беларусі распачалося стварэньне агентурнай сеткі II аддзелу ГК ЗУБ.

149 Ereignismeldung UdSSR, № 154, 12.1.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–175, г. 234/2723568.

Многія перавагі, якія беларусы атрымлівалі з рук Кубэ, так і не былі выкарыстаны. Вінавацілі яны ў гэтым ня так уласную слабасьць, колькі кіраўнікоў цывільнай адміністрацыі, якія нібыта занадта лібэральнічалі з палякамі. Беларуска–польскія канфлікты таму не заціхалі. Як і раней, у паліцыйных рапартах за верасень 1941 г. паведамлялася пра даносы на беларускіх службоўцаў, якіх абвінавачвалі ў камунізьме. Але цяпер паліцыя больш пільна разглядала такія справы, і калі даносы былі беспадстаўныя, іх аўтараў прыцягвалі да адказнасьці[150]. Таму здараліся такія выпадкі ўсё радзей. Затое часьцей пачалі зьяўляцца антыпольскія даносы ад беларускіх дзеячоў. Яны такім шляхам спрабавалі весьці барацьбу з засільлем палякаў. Адзін з гэтых дзеячоў, Іван Касяк, пісаў пасьля вайны, што "беларусы бараніліся супроць польскай акцыі вынішчэньня тымі сродкамі, якія былі даступныя"[151].

Такія даносы яны пісалі ня толькі на палякаў, што займалі пасады ў адміністрацыі, але і на каталіцкіх ксяндзоў, якіх лічылі за пашыральнікаў "польскай веры" і палянізацыі, ворагаў інтарэсаў праваслаўя. І тут не абышлося без удзелу праваслаўных сьвятароў. Пра гэта сьведчыць наступны данос аднаго зь іх, дасланы ў верасьні 1941 г. у нямецкую паліцыю:

> Рыма–каталіцкае духавенства праводзіць вялікую прапаганду для аднаўленьня незалежнай польскай дзяржавы. Яно імкнецца згуртаваць насельніцтва і плянуе пасьля адыходу нямецкіх войскаў стварыць партызанскія атрады для вызваленьня акупаваных земляў ад ворагаў польскасьці, у тым выпадку — ад немцаў. Правадырамі гэтага руху ёсьць рыма–каталіцкія ксяндзы з касьцёлаў у Ашмянах, Гальшанах, Гранасеках (Granosiekach), Барунах, Сеноргоях (напэўна, Смургонях. — *Ю.Т.*), Крэве, Драбах, Солах, Жупранах і г.д.[152].

Па гэтых даносах у лістападзе 1941 г. было расстраляна некалькі польскіх ксяндзоў, у т.л. Генрык Глябовіч, які распачаў на Меншчыне місіянэрскую дзейнасьць на загад Рамуальда Ялбжыкоўскага, архібіскупа віленскага[153]. Аднак амаль адначасова ў Менску былі арыштаваны і забіты таксама і беларускія каталіцкія ксяндзы — Станіслаў Глякоўскі і Дзяніс Малец[154], бо ў СД ляжаў данос, паводле якога ксяндзоў–беларусаў касьцельныя ўлады выкарыстоўвалі для "дзейнасьці на карысьць Польшчы"[155]. Ініцыятарамі гэтых злачынстваў былі беларускія праваслаўныя дзеячы, якія сьцерагліся росту каталіцкага ўплыву на Беларусі, прычым незалежна ад таго, польскі ён будзе ці беларускі. Пра гэта яскрава сьведчыць забойства кс. Глякоўскага, да вайны вядомага беларускага дзеяча ў Вільні, які выдаў пад канец 1941 г. у Менску беларускамоўны падручнік катэхізісу[156]. Той самы лёс ледзьве не напаткаў ксяндза Зянона Ігнатавічуса, літоўца, якога мясцовая беларуская паліцыя прыняла за "польскага ксяндза", — толькі мундзір капэляна раскватараваных на Беларусі літоўскіх атрадаў выратаваў яго ад арышту[157].

---

150 Так, напрыклад, у Наваградку адзін паляк у верасьні 1941 г. данёс, што беларускі бурмістар гэтага гораду — камуніст. Сьледзтва высьветліла, што абвінавачваньне было падманнае, і даносчыка расстралялі // Ereignismeldung UdSSR, № 97, 28.9.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2722690.

151 Касяк І. З гісторыі Праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью–Ёрк 1956. С. 121.

152 Ereignismeldung UdSSR, № 97, 28.9.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175 r. 233/2722687.

153 Jędrychowska A. Zygzakiem i po prostu. Warszawa, 1965. S. 247; Brodowski L. Ks. Henryk Hlebowicz dla nas //Ład. 7.11.1982. № 31. S. 6.

154 Мартыралёгія беларускага духавенства // Зьніч. № 1. С. 11.

155 Ereignismeldung UdSSR, № 153, 9.1.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 234/2723547.

156 Рэшаць Я. Кароткі катэхізм для беларусаў–каталікоў. Менск: выд–ва кс. д–ра Глякоўскага, 1941.

157 Jūra K. Monsinjoras. Brooklyn, 1979. P. 159—161.

Таму на першым этапе сваёй дзейнасьці на Беларусі Кубэ даводзілася лявіяваць паміж дэкляраванай беларусізацыяй і існымі рэаліямі. Праўда, ён пагадзіўся з фактычным становішчам у мясцовай адміністрацыі, але бачыў, якая там пануе варажнеча. Такім чынам, абапірацца на яе ў ажыцьцяўленьні сваёй беларускай палітыкі Кубэ ня мог. Да таго ж паўставала праблема з надбудовай гэтага апарату — стварэньнем цэнтральнай адміністрацыйнай інстанцыі. Паводле свайго характару яна, натуральна, павінна была стаць беларускай, але як забясьпечыць яе спраўнае функцыянаваньне ў спалучэньні зь пераважна небеларускім мясцовым апаратам? Вырашэньне гэтай супярэчнасьці Кубэ бачыў у паступовай беларусізацыі ніжэйшых ступеняў кіраўніцтва, але для гэтага трэба было падрыхтаваць адпаведныя кадры. Такі пункт гледжаньня падзяляла і ОМі. Пра гэта сьведчыць выказваньне Мэндэ, блізкага супрацоўніка Розэнбэрга:

> Найпершы прынцып нямецкага праўленьня ў Остляндзе — мясцовая адміністрацыя пад нямецкім кіраўніцтвам... На Беларусі адміністрацыя заўсёды знаходзілася ў чужых руках. Новае тут трэба пачынаць з нуля, а гэта, натуральна, патрабуе часу. Таму нямецкай адміністрацыі даводзіцца займацца і такімі заданьнямі, якія яна б з ахвотаю даручыла мясцовым сілам[158].

Паколькі яўных пярэчаньняў з боку Розэнбэрга не было, стварэньне цэнтральнай адміністрацыйнай інстанцыі на Беларусі ў верасьні 1941 г. было вельмі магчыма. Праўда, ліпеньская інструкцыя Розэнбэрга не давала нямецкім цывільным уладам права на прызнаньне літоўскага, беларускага і латыскага ўрадаў[159], аднак і Кубэ, і генэральныя камісары прыбалтыйскіх краін былі зацікаўлены ў стварэньні такой інстанцыі, зразумела — не нацыянальнага ўраду, але дапаможнага органа[160]. Паколькі Шчорс адмовіўся ад палітычнай дзейнасьці ўва ўмовах цывільнага рэжыму[161], гэтую кіраўнічую пасаду ў першых днях верасьня Кубэ даручыў Астроўскаму — адзінаму вядомаму беларускаму дзеячу, які ў гэты час выступаў на менскай палітычнай сцэне. Дзеля гэтага Кубэ захаваў адзіную на ўсёй тэрыторыі Остлянду Менскую акруговую ўправу на чале з Астроўскім і даручыў яму кіраўніцтва т.зв. Паралельным бюро (нэбэнбюро), якое было мясцовым адпаведнікам генэральнага камісарыяту, г.зн. найвышэйшай беларускай інстанцыяй[162].

Фармальны статус Астроўскага і яго нэбэнбюро ня быў зацьверджаны, гэтаксама, як і статус цэнтральных краёвых управаў у іншых генэральных акругах Остлянду. Аднак асабістая падтрымка Кубэ і рэальная неабходнасьць у існаваньні такога органа давалі Астроўскаму надзею на юрыдычнае прызнаньне сваёй інстанцыі. Але ў кастрычніку ўсе

---

[158] Mende von G. Reichskommissariat Ostland // Jahrbuch der Weltpolitik 1942. Berlin, 1942. S. 165; Klau F. Europas unbekanntestes Volk // Auf Informationsfahrt im Ostland. Riga, 1944. S. 77—78.

[159] Vorläufige politische Richtlinien für die Zivilverwaltung südlich der Düna, 14.7.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 26/1056.

[160] На думку Вакара (Vakar. P. 176), на пачатку цывільнай адміністрацыі на Беларусі не было яшчэ вядома дакладна, які лёс чакае мясцовую цывільную адміністрацыю: ці паўстане над ёю “надбудова” накшталт беларускага нацыянальнага “ўраду”, ці будзе яна падпарадкоўвацца беспасярэдне нямецкаму правінцыйнаму начальству.

[161] Не зусім ясна, якімі матывамі кіраваўся Шчорс, калі пакінуў Менск і вярнуўся ў Варшаву ў верасьні 1941 г. Паводле інфармацыі СД, Шчорс, Тумаш і іншыя дзеячы “Цэнтру” расчараваліся ў нямецкай палітыцы і асьцерагаліся, што пасьля выхаду зь Менску ранейшых паліцыйных уладаў (айнзацгрупы Б) яны ўвогуле страцяць усялякую падтрымку // Ereignismeldung UdSSR, № 90, 21.9.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2722485. Аднак нельга выключаць і другой вэрсіі: Шчорс мог гэта зрабіць па дамоўленасьці з Астроўскім, які вёў складаную палітычную гульню і адчуваў, што ў Варшаве яму неабходна мець вернага чалавека.

[162] Ліст Кубэ да Лёзэ ад 12.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/473; Kalush. P. 37.

яго пляны неспадзявана зруйнаваліся, бо ў Менск прыбыў Ермачэнка, прызначаны на загад Розэнбэрга кіраўніком Беларускай народнай самапомачы (БНС). Увогуле, абедзьве гэтыя арганізацыі маглі б працаваць паралельна, як гэта было ў Прыбалтыцы, аднак наперад было зразумела, што пасьля легалізацыі цэнтральнай управы Астроўскага БНС будзе фактычна ёй падпарадкавана. З гэтым не жадаў пагадзіцца Ермачэнка, які таксама прэтэндаваў на ролю беларускага правадыра. Яго пазыцыя ў гэтым канфлікце была значна больш пэўная: апрача афіцыйнага прызначэньня, ён яшчэ меў доказы супрацоўніцтва Астроўскага з камуністамі і польскімі ўладамі і выкарыстаў гэтыя аргумэнты ў барацьбе супраць свайго суперніка[163]. Пры такіх абставінах Астроўскі страціў давер у Кубэ і, ратуючыся перад магчымымі рэпрэсіямі, выехаў зь Менску ў Смаленск, адкуль ужо ня мог аказваць беспасярэдняга ўплыву на падзеі ў Беларусі[164]. Як пісаў пасьля вайны яго блізкі паплечнік Леанід Галяк, “з таго часу аж да сьмерці Кубэ Астроўскі калі і прыяжджаў у Менск, дык затрымліваўся вельмі нядоўга і паказваўся на вочы толькі некалькім асобам”[165].

Інцыдэнт з Астроўскім пахіснуў надзеі Кубэ на больш актыўны ўдзел беларусаў у супрацоўніцтве, бо Ермачэнка да вайны быў практычна невядомы на заходнебеларускай палітычнай арэне і меў яшчэ слабейшую грамадзкую падтрымку, чым Астроўскі. Сярод тагачасных беларускіх дзяячоў панавала перакананьне, што за плячыма гэтага чалавека сталі толькі немцы[166]. Ня толькі прызначэньне Розэнбэрга падштурхоўвала іх да такой думкі. Сам Ермачэнка ўсюды стараўся пашырыць перакананьне, што толькі супрацоўніцтва зь Нямеччынай можа забясьпечыць беларускай нацыі лепшую будучыню[167].

У Кубэ, аднак, не было выбару. 22.10.1941 г. разам зь Ермачэнкам яны выдалі адозву да беларускага насельніцтва, у якой абвяшчалі ўтварэньне БНС і заклікалі людзей засноўваюць яе валасныя камітэты. У адозьве гаварылася, што адзінай мэтай БНС ёсьць дапамога насельніцтву па ахове здароўя і бытавых умоў: апекаваньне бяздомнымі сем’ямі, сіротамі і дзецьмі, чые маткі працуюць[168]. Да БНС перайшла ўся маёмасьць, памяшканьні і супрацоўнікі таварыства беларускага Чырвонага крыжа, якое было створана ў ліпені 1941 г., а потым ліквідавана[169].

Яшчэ адным прэтэндэнтам на ўладу ў акупаванай Беларусі быў Акінчыц — рашучы праціўнік Шчорса, Астроўскага і Ермачэнкі. Аднак ён па–ранейшаму заставаўся ў Бэрліне, у аддзеле прапаганды ОМі, і толькі раз–пораз прыяжджаў у Беларусь, дзе ўзнавіў былое супрацоўніцтва з астатнімі ўдзельнікамі беларускага нацыянал–сацыялістычнага руху (Казлоўскім і інш.). Гэтая група ўжо ўлетку 1941 г. спрабавала адрадзіць сваю партыйную дзейнасьць, але сутыкнулася зь перашкодай: нямецкія акупацыйныя ўлады забаранялі стварэньне якіх–небудзь палітычных партыяў. Але, ня страціўшы надзеі на посьпех у будучыні, група Акінчыца паспрабавала ўтварыць беларускую моладзевую арганізацыю. У краёвым маштабе гэта ім пакуль што не ўдалося, але прынамсі ў Глыбоцкай акрузе такая арганізацыя была створана і дзейнічала з згоды акруговага камісара, хаця і без афіцыйнага дазволу Кубэ[170].

[163] Паведамленьне Мікалая Ждановіча ад 12.7.1983.
[164] Пасьля вайны Астроўскі называў іншыя прычыны свайго ад’езду зь Менску. Ён пісаў, што абразіўся на Кубэ, калі паліцыя паспрабавала канфіскаваць у яго радыёпрымач (Kalush. P. 38), альбо што быў расчараваны палітыкаю Кубэ і ня меў чаго рабіць у Менску (Галяк. С. 158—159).
[165] Галяк. С. 158—159.
[166] Акула К. Змагарныя дарогі. С. 25.
[167] Ліст Ермачэнкі да Розэнбэрга, 17.1.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/1000.
[168] Amtsblatt des Generalkommissars für Weissruthenien. 4.11.1941. № 3. S. 24.
[169] Раніца. 1943. 10 студзеня. № 1—2. С. 3; Vakar. P. 266.
[170] Справаздача камісара Глыбоцкай акругі, 16.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/309.

Асноўным прынцыпам праграмы Акінчыца і кіраванага ім т.зв. руху маладых актывістаў была выснова, паводле якой пабудова самастойнай беларускай дзяржавы ў найбліжэйшы час была немагчымая, для гэтага не было належных спрыяльных умоў: народ знаходзіўся ў летаргічным сьне, нацыянальная сьвядомасьць — паралізавана. Нацыянальнае і дзяржаўнае абуджэньне магло надысьці толькі ў аддаленай будучыні. Зыходзячы з такіх меркаваньняў, паплечнікі Акінчыца лічылі, што “папяровыя генэралы, прафэсары і дактары” ня могуць быць прадстаўнікамі Беларусі, ня могуць адрадзіць яе зьверху — беларускае адраджэньне трэба пачынаць зьнізу, пад нямецкім кіраўніцтвам[171]. Гэта была яўная намінка на Астроўскага, былога гімназійнага настаўніка, якога часам называлі прафэсарам, а таксама на лекараў — Шчорса і Ермачэнку. Беларуская моладзь, паводле праграмы Акінчыца, павінна была ўдзельнічаць у вынішчэньні праціўнікаў гітлерызму, а ў пэрспэктыве — змагацца ў атрадах СС. Для нямецкіх уладаў гэта магло б паслужыць доказам “шчырасьці” і падставай для большага даверу. У сваіх дзеяньнях Акінчыц абапіраўся на т.зв. кіраўнікоў прапагандысцкіх групаў, якія прайшлі пад яго кіраўніцтвам падрыхтоўку ў Бэрліне. Цяпер ОМі накіроўвала іх у паасобныя беларускія акругі.

Апрача групаў, якія сьвядома рабілі стаўку на супрацоўніцтва зь немцамі, заслугоўвае ўвагі канспірацыйная незалежніцкая дзейнасьць арганізацыі Іваноўскага — Станкевіча. Даволі доўга гэтыя дзеячы не рашаліся перабрацца ў Менск. Толькі на пачатку верасьня туды выехаў Іваноўскі, і тое толькі дзеля таго, каб высьветліць на месцы сытуацыю. Тут гарадзкі бурмістар Тумаш прапанаваў яму сваю пасаду, паабяцаўшы залагодзіць у Кубэ ўсе фармальнасьці[172]. Зараз цяжка меркаваць, ці было прычынаю гэтай прапановы жаданьне Тумаша пакінуць Менск, ці гэта сталася ў выніку спэцыяльнай дамоўленасьці паміж імі. Ува ўсялякім разе пасьля гэтага спынілася супрацоўніцтва Тумаша з групай Шчорса — Астроўскага. Тым часам Іваноўскі марудзіў з канчатковым рашэньнем. Ён вярнуўся ў Вільню і працягваў сваю працу ў мясцовым беларускім камітэце.

Неўзабаве вестка пра магчымае прызначэньне Вацлава Іваноўскага на пасаду менскага бурмістра дайшла да яго сябра, Самуэля Кастравіцкага, афіцэра 2–га аддзелу ў Галоўным камандаваньні ЗУБ. Ён у гэты час быў у Варшаве і рыхтаваўся выехаць у Менск, каб узначаліць там экспазытуру 2–га аддзелу[173]. Начальнік Кастравіцкага, шэф выведкі ЗУБ у Беларусі і Прыбалтыцы Тамаш Зан, таксама зацікавіўся гэтым паведамленьнем. Не падзяляючы скептыцызму Кастравіцкага, ён спадзяваўся схіліць Іваноўскага да супрацоўніцтва з ЗУБ і дзеля гэтага ў канцы верасьня выехаў у Вільню. На кватэры прафэсара Януша Івашкевіча Зан спаткаўся з Іваноўскім, пазнаёміў яго з сваёй прапановай, падмацоўваючы яе пэрспэктывай беларуска–польскага фэдэрацыйнага саюзу. Аднак атрымаў на гэта двухсэнсоўны адказ: “Я вам дапамагаць ня буду і перашкаджаць ня буду”[174]. Ад гэтай размовы ў Зана засталося ўражаньне, што Іваноўскі цалкам прысь-

[171] Ereignismeldung UdSSR, № 154, 12.1.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 234/2723570.
[172] Паведамленьне Язэпа Найдзюка (пасьля вайны ён жыў у Польшчы пад прозьвішчам Александровіч) ад 30.3.1979, які разам з д–рам Станіславам Грынкевічам–старэйшым суправаджаў Іваноўскага ў Менск.
[173] Самуэль Кастравіцкі нар. 4.12.1902 г. у Лідзе ў сям'і доктара Амброжага Кастравіцкага. У 30–х г. ён працаваў у Варшаўскай зямельнай палаце, а перад самай вайной жыў у Вільні, адтуль у 1939 г. яго прызвалі ў войска. Пасьля верасьнёўскай кампаніі ён прыбыў у Варшаву. У 1939—1944 г. быў у падпольлі і супрацоўнічаў з Станкевічам. Іваноўскі ведаў Самуэля зь дзяцінства. Перад першай сусьветнай вайною ён працаваў на беларускай выдавецкай ніве разам з бацькам Самуэля, Амброжым, і дзядзькам Казімерам — дзеячом Беларускай сацыялістычнай грамады і вядомым беларускім навэлістам і драматургам, які выступаў пад псэўданімам Карусь Каганец. Напэўна, нешта з гэтых сямейных традыцыяў засталося і ў Самуэля — Іваноўскі аказваў яму вялікі давер.
[174] Паведамленьне Тамаша Зана, зробленае для аўтара 24.8.1979.

вяцію сябе “беларускай рабоце” і ня быў зацікаўлены ў супрацоўніцтве з польскім падпольлем.

Івано́ўскі выехаў у Менск толькі ў сярэдзіне лістапада, калі ўжо ясна абазначылася няўдача “бліцкрыгу”. Вайна зацягвалася, цяпер варыянты яе заканчэньня нараджалі надзею. Крыху пазьней выехаў у Менск Янка Станкевіч, яго палітычны паплечнік і старшыня падпольнай Партыі беларускіх нацыяналістаў[175]. Нямецкія ўлады ня мелі палітычнага даверу да Вацлава Іваноўскага. У прыватнасьці, назіраньні паліцыі за дзяячамі віленскага асяродзьдзя сьведчылі аб іх “вельмі няясных і неадпаведных выказваньнях наконт сваіх нацыянальных задач” — усё гэта ў першую чаргу датычыла Іваноўскага. Таму СД зьбіралася нават з дапамогаю Шчорса насадзіць у Вільні больш адпаведных дзяячоў[176]. Пры такіх абставінах замест пасады бурмістра Іваноўскі заняў пакуль што пасаду яго намесьніка[177].

Насьцярожанасьць нямецкіх уладаў павялічвала непрыязнасьць, якую выказвалі ў адносінах да Іваноўскага іншыя беларускія групы, што змагаліся за ўладу. Яны прызнавалі яго заслугі перад беларускім рухам, бачылі ў ім апошняга жывога пачынальніка Адраджэньня, але адначасова — і менавіта таму! — будучага небясьпечнага канкурэнта. Іваноўскі заставаўся ўбаку ад дзейнасьці мясцовых груповак, але іх занепакоенасьць ад гэтага не зьнікала. Яму не давяралі ні ксёндз Гадлеўскі, ні Ермачэнка. Адкрытую варожасьць выяўлялі некаторыя праваслаўныя прыхільнікі Радаслава Астроўскага. Ужо ў сьнежні ў менскае СД лёг іх данос, дзе Іваноўскага выявілі як залежнага ад віленскай курыі каталіка, які дзейнічае на карысьць Польшчы і каталіцызму, а свае сапраўдныя інтарэсы хавае пад маскаю клопатаў па беларусізацыі Каталіцкай царквы. У даносе намесьніка бурмістра абвінавачвалі ў тым, што ён такім чынам стараецца адцягнуць увагу нямецкага кіраўніцтва ад польска–каталіцкай экспансіі[178].

Толькі пасьля таго, як Іваноўскі перабраўся на стала ў Менск, сюды пад канец лістапада прыехаў Кастравіцкі, каб арганізаваць мясцовую выведчэйку ЗУБ. Разам зь ім быў і яго стрыечны брат Вітальд Буткевіч, які павінен быў займацца выведкай у правінцыі. Яны абодва паведамілі Іваноўскаму аб прыезьдзе, але, пасьля размовы зь ім, істотна зьмянілі плян сваёй лякалізацыі, распрацаваны загадзя 2–м аддзелам. Буткевіч, замест таго, каб ехаць у правінцыю, застаўся працаваць у Менскай гарадзкой управе, на службе ў Іваноўскага. А Кастравіцкі, замест таго, каб узначаліць мясцовую экспазытуру 2–га аддзелу, праз некалькі дзён вярнуўся ў Варшаву[179]. Буткевіч засьведчыў, што Кастравіцкага адклікалі назад, у Варшаву, але ў сапраўднасьці было іначай. Гэта пацьвердзіў Зан, дадаючы, што пры тагачаснай сувязі і мовы на тое быць не магло, каб перадаць за такі кароткі час нейкія распараджэньні з Варшавы.

Відаць, прапанова Іваноўскага наконт уладкаваньня абодвух афіцэраў “двойкі” прыйшлася ім больш да душы, чым дырэктывы камандаваньня. Аднак гэта не азначала, што Іваноўскі хацеў перабегчы дарогу 2–му аддзелу — выведчэйка ў Менску была створана, адзінае, што ўзначаліў яе Буткевіч, а Кастравіцкі вярнуўся ў Варшаву з заданьнем падрыхтаваць глебу для перамоў паміж Галоўным камандаваньнем і Партыяй беларускіх нацыяналістаў. Напэўна, гэта была адзіная магчымасьць наладзіць кантакт з ЗУБ, якога беспасьпяхова дамагаўся ў Варшаве Станкевіч вясною 1941 г. Даносчыкі, такім чынам, натрапілі на фальшывы сьлед.

Пад канец 1941 г. на Беларусі ў асноўным ужо склалася пэўная сыстэма палітычных

[175] Рапарт “Сыбулта” (Тамкевіча) ад 20.12.1941, ЦА ЦК ПАРП, 203/VII–45, k. 24.

[176] Ereignismeldung UdSSR, № 21, 13.7.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 233/2721486.

[177] Тамсама. № 154. 12.1.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 234/2723575.

[178] Тамсама.

[179] Допіс В. Буткевіча, зь якім дазволіў азнаёміцца аўтару Бэрнард Закшэўскі (“Оскар”), былы шэф контравыведкі ГК АК. Ксэракопія дакумэнту — у архіве аўтара.

суадносін. Яе ўтваралі нямецкія акупацыйныя ўлады, беларускія групоўкі Ермачэнкі, Акінчыца, Іваноўскага — Станкевіча і Астроўскага, які пакінуў Беларусь, але не свае амбіцыі, і ня трацію веры ў паплечнікаў — у Менску іх засталося нямала. А дапаўняла гэты палітычны ўклад савецкае і польскае падпольле. Наогул, усе гэтыя групоўкі імкнуліся ў той пэрыяд арганізацыйна ўзмацніцца і стварыць умовы для далейшай працы, чые посьпехі ў значнай ступені залежалі ад сытуацыі на фронце.

Настроі шырокіх масаў насельніцтва звычайна бывае нялёгка акрэсьліць з дакладнасьцю. У асноўным людзі ня вельмі цікавіліся палітычнай гульнёй, перш за ўсё ім трэба было выжыць. У паліцыйных данясеньнях канца 1941 г. немцы не адзначалі яшчэ ўсеагульнай варожасьці насельніцтва, але стаўленьне да акупантаў станавілася штораз горшае. Асабліва на гэта ўплывалі рабункі і рэквізыцыі, забойствы ваеннапалонных, габрэяў і савецкіх дзяячоў, захаваньне калгаснага ладу ўва Ўсходняй Беларусі і харчовыя цяжкасьці ў гарадах. Пры ўсім тым да спантанных і самастойных выступленьняў супраць немцаў яшчэ не даходзіла. Людзей яшчэ стрымлівала разуменьне, што ў першыя месяцы вайны ня могуць ажыцьцявіцца карэнныя палітычныя і гаспадарчыя зьмены. Такім чынам, сымпатыі насельніцтва мог заваяваць любы зацікаўлены бок, што ў сваю чаргу залежала ад магчымасьцяў дзейнасьці рэальнай улады і яе жаданьня заручыцца падтрымкай гэтага насельніцтва.

## III. Ад Масквы да Курску — беларускі калейдаскоп супярэчнасьцяў і канфліктаў (сьнежань 1941 — верасень 1943)

### Разьвіцьцё савецкага партызанскага руху

29.6.1941 г. Савет народных камісараў СССР і ЦК УКП(б) выдалі дырэктыву, у якой заклікалі партыйныя арганізацыі распачаць падпольную і партызанскую барацьбу ў раёнах, пакінутых Чырвонай Арміяй пры адступленьні[1]. 3.7.1941 г. Сталін яшчэ раз паўтарыў гэтае заданьне па радыё. Па ўсёй зоне акупацыі было загадана ўзрываць масты і дарогі, псаваць тэлеграфную і тэлефонную сувязь, паліць лясы, склады і абозы, на кожным кроку перасьледаваць і нішчыць ворага і яго памагатых, зрываць любыя іхнія мерапрыемствы[2]. У адказ Гітлер заявіў 16.7.1941 г.: "Расейцы абвесьцілі партызанскую вайну ў тылох нашага фронту. Ёсьць і свой добры бок у гэтай партызанскай вайне: мы зможам вынішчаць усё, што паўстала супраць нас"[3]. Так была абвешчана бязьлітасная вайна ў нямецкіх тылах. На Беларусі яна прадвызначыла ўвесь далейшы ход падзеяў і стала адным з найважнейшых фактараў, што ўплывалі на дзейнасьць акупацыйнага рэжыму.

Зазначым, што партызанскую вайну савецкі ўрад абвесьціў у самыя першыя дні нямецкага нашэсьця, калі намеры Гітлера адносна занятых тэрыторый СССР былі яшчэ невядомыя. Асабліва гэта датычыла стаўленьня Нямеччыны да незалежніцкага руху ў Прыбалтыцы, Беларусі і на Ўкраіне: ні форма панаваньня над гэтымі землямі (урады — сатэліты або беспасярэдняе нямецкае кіраўніцтва), ні гаспадарчая палітыка і, сярод іншых, пытаньне аб роспуску або захаваньні калгасаў — нічога не было загадзя вядома. Няясна было, як пачнуць сябе паводзіць немцы з савецкімі дзяячамі, ваеннапалоннымі і габрэйскім насельніцтвам. Пытаньняў было шмат, і савецкія ўлады на пачатку вайны не маглі ўпэўнена прадказаць настрой людзей і іх стаўленьне да заплянаванага збройна-

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Мінск, 1975. Т. 4. С. 161.

[2] Сталин И. О Великой Отечественной войне Советского Союза. Москва, 1947. С. 15.

[3] Aktenvermerk vom 16.8.1941 über eine Besprechung Hitlers mit Rosenberg, Lammers, Keitel und Göring, Der Prozess gegen die Hauptkriegsverbrecher vor dem Internationalen Militärgerichtshof Nürnberg. Nürnberg, 1947—1949 (далей — IMGN). Bd. XXXVIII, 221–L, S. 88.

га руху супраціву. Такім чынам, партызанская вайна была абвешчана без увагі на будучыя паводзіны нямецкіх акупацыйных уладаў і настрой насельніцтва, яна была прадыктавана выключна вайсковымі і палітычнымі задачамі СССР.

Беларусь была вельмі важным зьвяном у агульнай стратэгіі савецкай партызанскай вайны. Выключнае значэньне мела яе геаграфічнае становішча. Па–першае, дужа спрыяльныя былі натуральныя варункі — багата лясоў і балот, і, па–другое, тут пралягалі галоўныя шляхі з захаду да Масквы. Таму не выпадкова ўжо назаўтра пасьля выданьня дырэктывы ад 29.6.1941 г. ЦК КП(б)Б і абласныя партарганізацыі Усходняй Беларусі пачалі стварэньне падпольля і партызанскіх атрадаў. Дзеля гэтага ў зоне акупацыі ў ліпені — жніўні засталося 1215 партыйцаў і каля 5000 камсамольцаў, яны атрымалі заданьне арганізаваць узброены супраціў[4]. Паводле савецкіх крыніц, у жніўні 1941 г. на тэрыторыі БССР, галоўным чынам ува ўсходніх раёнах, быў створаны 231 партызанскі атрад, а колькасьць байцоў дасягала 12 тыс.[5]. Пераважна гэта былі чырвонаармейцы — салдаты і камандзіры, што не змаглі прарвацца на ўсход і хаваліся цяпер ад лягернага палону, партыйныя і камсамольскія дзеячы, а таксама іншыя савецкія актывісты.

Тым часам лінія фронту аддалялася ўсё далей у маскоўскім напрамку, і дзейнічаць партызанам станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Зброі, што выдалі ім з вайсковых складоў улетку 1941 г., не хапала, больш–менш рэгулярныя яе паставы з–за лініі фронту пачаліся толькі ў сакавіку 1942 г.[6]. Асабліва цяжка было бяз сувязі. Да красавіка 1942 г. гэтыя атрады ня мелі яшчэ сваіх радыёстанцыяў, таму немагчыма было наладзіць апэратыўны кантакт з камандаваньнем Чырвонай Арміі[7]. Такім чынам, некалькі месяцаў партызанскія групы на Беларусі былі кінутыя на ўласны лёс. Улетку і ўвосень 1941 г. яны панесьлі значныя страты ад нямецкіх карных акцыяў, мясцовае насельніцтва, асабліва на вёсцы, таксама не заўсёды аказвала ім падтрымку[8]. Пры такой сытуацыі глыбокай восеньню 1941 г. баявая дзейнасьць гэтых групаў значна аслабела. У нямецкіх вайсковых і цывільных колах гэта ўспрымалі як канец партызанскага руху, і ня толькі з прычын матэрыяльных, але і ідэалягічных — у гэты час нямецкая армія была ўжо на подступах савецкай сталіцы[9].

Параза немцаў пад Масквой аднавіла веру ў сілу Чырвонай Арміі, у яе здольнасьць аказваць належны супраціў ворагу. Яно істотна ўзьдзейнічала на актывізацыю савецкага падпольля на Беларусі. Зь нямецкіх паліцыйных рапартаў відаць, наколькі ўзмацніліся ў сьнежні 1941 — лютым 1942 г. партызанскія напады на транспартныя калёны Вэрмахту і ўзрасла колькасьць выпадкаў сабатажу і дывэрсіі на камунікацыйных шляхах. Аднак партызанскія групы па–ранейшаму пазьбягалі адкрытага сутыкненьня нават зь невялікімі нямецкімі атрадамі і скіроўвалі ўсе намаганьні на арганізацыйнае ўзмац-

---

[4] БелСЭ. Мінск, 1975. Т.8. С. 261.

[5] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 176.

[6] Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Минск, 1967. Т. 1. С. 656.

[7] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 215.

[8] Tätigkeits– und Lagebericht № 6 der Einsatzgruppen der Sicherheitspolizei und des SD in der UdSSR 1—31.10.1941, IMGN, Bd. XXXVIII, 102–R. У рапарце адзначаецца, што насельніцтва ня толькі не падтрымлівае партызан, але нават актыўна выступае супраць іх дзеля захаваньня сваёй маёмасьці. Вакар (Vakar N. Belorussia. The Making of a Nation. Cambridge, Mass. 1956. P. 193) таксама падае, што савецкія дывэрсанты і выведнікі спачатку не знаходзілі падтрымкі ў мясцовага насельніцтва, іх часта выдавалі, арыштоўвалі і расстрэльвалі. Затое савецкія крыніцы абыходзяць гэтыя сьведчаньні маўчаньнем і прыводзяць толькі прыклады падтрымкі і дапамогі савецкім партызанам з боку беларускага насельніцтва.

[9] Meldungen aus den besetzten Ostgebieten, № 9, 26.6.1942 // AGKBZH, ATW IX, Dok. Obrony. T. X. S. 275. Савецкія аўтары таксама паведамляюць, што “глыбокай восеньню 1941 г. многія партызанскія атрады перайшлі да падпольнай дзейнасьці”.

неньне, пашырэньне базаў і сыстэм забесьпячэньня, дбалі аб павелічэньні свайго ўплыву сярод насельніцтва[10]. Без сур'ёзнай матэрыяльнай падтрымкі Чырвонай Арміі іх дзейнасьць не стварала для Вэрмахту вялікай небясьпекі. Як паведамляў Шэнкендорф, у гэты час існавалі толькі невялікія партызанскія групы, якія абмяжоўваліся нападамі на пакінутыя без аховы мясцовасьці і дробныя атрады нямецкіх салдат, галоўным чынам дзеля папаўненьня сваіх запасаў[11]. Дзейнасьць партызан ня вельмі трывожыла немцаў. Пра гэта можа сьведчыць і такі факт: перад Калядамі 1941 г. для аховы вялікага складу боепрыпасаў у Смаленску яны прыставілі ўсяго толькі двух вартавых[12].

Але неўзабаве пачалі праяўляцца іншыя вынікі Маскоўскай бітвы, якія мелі вялікае практычнае значэньне для разьвіцьця партызанскага руху. Пачаўся зімовы контранаступ Чырвонай Арміі. У першыя дні лютага 1942 г. адзін зь яе кліноў дасягнуў лініі Вяліж—Усьвяты, г.зн. дайшоў да паўночна–ўсходняй мяжы Беларусі, за якою ўжо дзейнічала некалькі невялікіх партызанскіх атрадаў[13]. Такім чынам, зона партызанскай барацьбы і апэрацыйны абшар Чырвонай Арміі злучыліся, стварыліся ўмовы для іх узаемадзеяньня. Савецкае камандаваньне, напэўна, не прадбачыла такой сытуацыі. Пра гэта сьведчыць факт, што толькі ў сакавіку, г.зн. праз месяц, была наладжана сувязь паміж партызанамі Віцебшчыны і Чырвонай Арміяй[14]. Менавіта ў гэтым месяцы савецкае вайсковае і палітычнае кіраўніцтва прыняло канкрэтнае рашэньне наконт выкарыстаньня партызанскага руху на Беларусі і ўлучыла яго ў сваю ваенную стратэгію. Немцам далі адпор пад Масквой, вайна абяцала зацягнуцца надоўга, і ў гэтай сытуацыі партызанская барацьба набыла ня толькі ваеннае, але і палітычнае значэньне. 20.3.1942 г. ЦК КП(б)Б стварыў т.зв. Паўночна–заходнюю апэрацыйную групу для дзейснага кіраўніцтва партызанскім рухам на Беларусі. Група дзейнічала сумесна з штабамі Калінінскага фронту, 3–й і 4–й ударных арміяў — іх апэрацыйная зона прылягала да Віцебшчыны. Ува Ўсходняй Беларусі яна падтрымлівала сувязь з падпольнымі партарганізацыямі і партызанскімі атрадамі, удзельнічала ў іх узмацненьні і актывізацыі, займалася таксама падрыхтоўкай падрыўнікоў, радыётэлеграфістаў, зьбірала і апрацоўвала выведную інфармацыю. Група выконвала ролю штабу савецкага партызанскага руху на Беларусі. У красавіку 1942 г. ЦК КП(б)Б пастанавіў набраць, падрыхтаваць і перакінуць на Беларусь 50 невялікіх атрадаў, якія павінны былі актывізаваць партызанскую барацьбу і ўцягнуць у яе насельніцтва. Кадры падбіраліся спэцыяльна з тых беларусаў, што адбывалі службу ў войску або знаходзіліся ў савецкіх тылах.

Сувязь з тэрыторыяй Беларусі апэрацыйная група падтрымлівала цераз т.зв. “Віцебскія вароты”, часам называныя “Сураскімі варотамі”. Гэта быў своеасаблівы калідор шырынёю 40 км паміж гарадамі Вяліж і Ўсьвяты на стыку апэрацыйнай зоны Чырвонай Арміі і віцебскіх партызан. Ён праіснаваў да канца верасьня 1942 г. — аж пакуль ня быў зьліквідаваны немцамі. Былы камандзір Беларускага штабу партызанскага руху П. Калінін сьведчыць, што праз гэты ўнікальны для гісторыі нямецка–савецкай вайны калідор партызаны Віцебшчыны пераправілі на Вялікую зямлю больш за 35 тыс. чалавек, зь іх больш за 20 тыс. — для службы ў Чырвонай Арміі. Апрача таго, праз “Віцебскія вароты” для патрэбы арміі з акупаванай Беларусі было пераслана 1500 тон збожжа, 10 тыс. тон бульбы, 4 тыс. галоў жывёлы, 2 тыс. коней, 35 тыс. тон сена і іншых харчовых запасаў[15]. А ў гэты

[10] Meldungen aus den besetzten Ostgebieten, № 9, 26.6.1942...

[11] Дашичев В.И. Банкротство стратегии германского фашизма. Документы и материалы. Москва, 1973. Т. 2. С. 432.

[12] Vakar. P. 193.

[13] Калінін П.З. Беларускі штаб партызанскага руху // Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мінск, 1959. С. 309—310; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 196.

[14] Калінін П.З. С. 309—310.

[15] Тамсама. С. 310—311.

час у адваротным кірунку — на Віцебшчыну — перайшлі дзясяткі савецкіх дывэрсійных групаў і партызанскіх атрадаў, перапраўлена аўтамабільнымі і коннымі абозамі неабходная колькасць зброі, амуніцыі, выбуховых рэчываў і іншага вайсковага рыштунку, мільёны асобнікаў газэт і палітычнай літаратуры. А ўжо адтуль людзі, зброя і літаратура накіроўваліся далей, у іншыя раёны Беларусі, галоўным чынам усходнія, паводле дырэктывы, якую вызначала кіраўніцтва апэрацыйнай групы[16].

Савецкія ўлады прадбачылі, што гэты надзвычай важны камунікацыйны канал хутка можа закрыцца, таму пастараліся своечасова наладзіць эфэктыўную авіяцыйную сувязь. Дзеля гэтага ўжо ў 1942 г. на Беларусь перапраўілі спэцыялістаў, пад кіраўніцтвам якіх пачалася будоўля палявых партызанскіх аэрадромаў. За ўвесь пэрыяд акупацыі іх было пабудавана амаль 50[17]. Гэтыя аэрадромы дазволілі пасьля ліквідацыі “Віцебскіх варотаў” у канцы верасьня 1942 г. працягваць дастаўку ваенных грузаў, вывозіць параненых, пошту і г.д. У дадатак ад пачатку красавіка да канца 1942 г. для лясных атрадаў было перапраўлена 150 палявых радыёстанцыяў разам з абслугай — вырашылася праблема сувязі з цэнтральным савецкім камандаваньнем[18], дзе таксама наступілі зьмены. 30.5.1942 г. пры Галоўным камандаваньні Чырвонай Арміі быў створаны Цэнтральны штаб партызанскага руху пад кіраўніцтвам першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі П. Панамарэнкі, а ў верасьні 1942 г. — яго тэрытарыяльны аддзел — Беларускі штаб партызанскага руху, начальнікам якога стаў П.З. Калінін. Гэты штаб узяў на сябе функцыі паўночна–заходняй апэрацыйнай групы.

Такім чынам, толькі вясною 1942 г. савецкія ўлады стварылі неабходныя матэрыяльныя і арганізацыйныя ўмовы для разьвіцьця партызанскага руху на Беларусі. За ўвесь пэрыяд вайны яны перакінулі туды ня менш за 13 тыс. салдат, афіцэраў і арганізатараў гэтага руху, большасьць зь іх прайшла спэцыяльную падрыхтоўку для дзейнасьці ў зоне нямецкай акупацыі. Апрача таго, да сакавіка 1944 г. туды было пераслана больш за 60 тыс. вінтовак, 15 тыс. аўтаматаў, 5 тыс. кулямётаў, каля 100 млн. штук патронаў, 400 тон выбуховых рэчываў, сотні мінамётаў, супрацьтанкавая зброя і інш.[19]. Гэтыя пастаўкі дапаўняліся за кошт трафэйнай зброі і адпавядалі агнявой сіле каля дзесяці пяхотных дывізій.

Дзякуючы сваёй узброенай сіле савецкі партызанскі рух стаў для многіх жыхароў Беларусі шанцам ратунку альбо пажаданай альтэрнатывам. Хутка ў яго ўліліся ня толькі слабыя і раздробленыя групы супраціву, што паўсталі ўлетку 1941 г., але і людзі, якіх акупанты асудзілі на вынішчэньне або пагражалі сьмерцю, асабліва габрэі і камуністычныя дзяячы. Партызанам лёгка ўдалося абярнуць на сваю карысьць распараджэньне Вэрмахту, абвешчанае ў сакавіку 1942 г., паводле якога вызваленыя раней і разьмешчаныя па калгасах чырвонаармейцы павінны былі вярнуцца ў лягеры ваеннапалонных. Тысячы такіх людзей апынуліся, насуперак загаду, у лясных атрадах. На думку паліцыі, гэта аказала вялізны ўплыў на актывізацыю партызанскай дзейнасьці[20]. У лес уцякала і шмат моладзі, якая хавалася ад прымусовага вывазу на працу ў Нямеччыну. Такім чынам, вясною 1942 г. грамадзка–палітычныя ўмовы складваліся куды больш спрыяльна для партызанскага руху, чым гэта было ў першыя тыдні акупацыі.

На разьвіцьцё партызанскага руху на Беларусі ўплывала шмат фактараў, адным з найважнейшых, або нават і вырашальным, аказаліся погляды Сталіна і Галоўнага камандаваньня Чырвонай Арміі: яны зыходзілі зь меркаваньня, што наступны генэральны ўдар немцаў зноў будзе скіраваны на цэнтральны ўчастак фронту. Такая ацэнка

[16] Тамсама. БелСЭ. Т. 8. С. 340.

[17] Калінін П.З. С. 312.

[18] Тамсама.

[19] Тамсама.

[20] Tätigkeits– und Lagebericht № 11 der Einsatzgruppen der Sicherheitspolizei und des SD 1—31.3.1942 // AGKBZH, ATW IX, Dok. Prokuratury. T. VI. S. 88—89.

сытуацыі пацягнула за сабой усе далейшыя захады па стварэньні ў варожых тылох узброенай сілы, якая магла б аслабіць націск праціўніка. З гэтым быў зьвязаны і рост асабовага складу партызанскіх атрадаў. У першым паўгодзьдзі 1942 г. ён павялічваўся прыкладна на 3—4 тыс. чалавек штомесяц, тады як у другой палове году — ужо на 7—8 тыс., так што на пачатку лістапада 1942 г. у атрадах налічвалася 47,3 тыс. чалавек[21]. Гэтыя сілы перш канцэнтраваліся галоўным чынам ува Ўсходняй Беларусі, але паступова пачалі праточвацца і ў заходнія раёны. У сярэдзіне 1942 г. дзейнасьць партызан ахапіла ўсе акругі Беларусі[22].

Але ў канцы чэрвеня новае нямецкае наступленьне пачалося на поўдні, туды былі скіраваныя значныя вайсковыя сілы, перакінутыя, між іншым, з цэнтральнага ўчастка фронту і яго тылоў. Для партызанскага руху гэта мела вельмі важнае значэньне: магчымасьці немцаў весьці зь ім барацьбу значна аслаблі. Як паведамляў Кубэ, у чэрвені 1942 г. паліцыйныя сілы ў генэральнай акрузе Беларусі налічвалі каля 1 тыс. нямецкіх салдат і прыкладна 3 тыс. літоўскіх, латыскіх і ўкраінскіх[23]. Істотна паменшалі сілы ахоўных атрадаў, што былі разьмешчаны ў тыле групы армій "Цэнтар". Паводле Шэнкендорфа, 1.12.1941 г. у іх уваходзілі чатыры ахоўныя дывізіі, дзьве брыгады СС і 260 рот рознага роду войскаў, але ў красавіку 1942 г. засталося толькі 85 рот, палова зь іх была недастаткова навучаная, слаба ўзброеная і здатная хіба толькі на вартаўніцтва ў тылах[24]. Гэтыя сілы аказваліся ў некалькі разоў слабейшыя за партызанскія: лясное войска таго ж лета мела на ўзбраеньні нават артылерыю і бронемашыны. Колькасная перавага памнажалася на тактычную: шматлікія дробныя групы дзейнічалі адначасова на вялізным абшары. У такой сытуацыі немцы не маглі спыніць разьвіцьця партызанскага руху. Пра гэта сьведчыць і працяглае існаваньне "Віцебскіх варотаў", якіх фашысты ня здолелі ліквідаваць адным махам.

Усё гэта спрыяла распаўсюджаньне партызаншчыны, зь вясны 1942 г. яе сілы расьлі зь месяца на месяц. Адной з партызанскіх задач былі дывэрсіі на транспартных шляхах, па якіх ішло забесьпячэньне для нямецкага фронту. Паводле данясеньняў Лёзэ, колькасьць выбухаў на беларускай чыгунцы ад сакавіка да верасьня 1942 г. павялічылася з 25 да 695, адпаведна ўзрасла лічба зьнішчаных лякаматываў і вагонаў (гл. табліцу 8)[25]. Дывэрсіі на чыгунцы працягваліся да канца акупацыі, іншы раз гэта былі акцыі ўсебеларускага маштабу, якія каардынаваў партызанскі штаб. Адна зь іх — т.зв. "Рэйкавая вайна" — доўжылася ад пачатку жніўня да сярэдзіны верасьня 1943 г., у выніку гэтай апэрацыі было зьнішчана больш за 121 тыс. чыгуначных рэек, вялікая колькасьць паравозаў, вагонаў і іншых транспартных сродкаў[26].

Чыгуначныя дывэрсіі прыносілі немцам значныя матэрыяльныя страты, зьбівалі з раскладу цягнікі. Тым ня менш вынікі гэтых апэрацыяў ацэньваліся па–рознаму. Савецкія аўтары ім надаюць вялікае значэньне. Паводле іх дадзеных, з чэрвеня 1941 да ліпеня 1944 г. партызаны спусьцілі пад адхон 11 128 адзінак транспарту і 34 бронецягнікі, разграмілі 29 чыгуначных станцыяў, зьнішчылі звыш 18,7 тыс. аўтамабіляў, 819 чыгуначных мастоў і больш за 300 тыс. чыгуначных рэек[27]. У сваю чаргу нямецкія крыніцы

---

[21] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 217, 276.

[22] Кубэ сьцьвярджаў, што на тэрыторыі генэральнай акругі "самы глыбокі спакой" утрымліваўся толькі да канца траўня, а ў некаторых акругах Заходняй Беларусі — да чэрвеня–ліпеня 1942 г. // Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 84/1322.

[23] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 12.6.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/609.

[24] Ліст Шэнкендорфа ад 16.4.1942 // Дашичев В.И. С. 433.

[25] Гэта супярэчыць зьвесткам савецкіх крыніц: яны паказваюць значна большую колькасьць вагонаў і значна меншую колькасьць лякаматываў // Всенародное партизанское движение... Т. 1. С. 479.

[26] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 301—302.

[27] БелСЭ. Мінск, 1975. Т. 8. С. 269.

не былі схільныя да перабольшваньняў. Улетку 1942 г., калі хваля дывэрсіяў дасягала найвышэйшага ўзроўню, немцы ацэньвалі іх вынікі як “у большасьці выпадкаў нязначныя” і хутка іх ліквідавалі[28]. Гімлер не пераацэньваў вынікаў гэтых акцыяў і ў кастрычніку 1943 г., адзначаючы, што яны галоўным чынам крыху замаруджвалі франтавыя пастаўкі[29]. Трэба заўважыць, што зь вясны 1942 да восені 1943 г. самыя буйныя ваенныя апэрацыі ішлі на поўдні, таму франтавыя пастаўкі цераз Беларусь ня мелі для Нямеччыны першараднага значэньня.

Магчыма, што аслабленьне ваенных апэрацыяў, якое даволі доўга працягвалася на цэнтральным участку фронту, пабудзіла партызан да асабліва актыўных выступленьняў супраць гаспадарчых і палітычных захадаў акупацыйных уладаў. Зыходным пунктам гэтых выступленьняў стала барацьба зь мясцовай адміністрацыяй, створанай немцамі. Спашлемся на рапарт Цэнтральнага штабу партызанскага руху ад 9.12.1942 г., дзе гэтая задача стаіць на першым месцы сярод усіх астатніх у дзейнасьці партызанскіх атрадаў на Беларусі[30]. Таму ўвесну 1942 г. пачаліся напады партызан ня толькі на вайсковыя, але і на гаспадарчыя аб’екты, а таксама на валасныя ўправы, пры гэтым супрацоўнікі акупацыйных установаў караліся сьмерцю як здраднікі і ворагі савецкай айчыны. Паводле сьведчаньняў Розэнбэрга на Нюрнбэрскім працэсе, на Беларусі ад рук партызан загінула 500 “бурмістраў” разам зь сем’ямі[31].

Пры такіх абставінах ужо ў чэрвені 1942 г. на Беларусі аказалася шмат раёнаў, дзе валасная ўлада перайшла да партызан. Неўзабаве пазыцыя нямецкіх уладаў пахіснулася яшчэ больш, так што пад канец 1942 г. партызаны трывала займалі абшар плошчаю 15 тыс. км$^2$ і кантралявалі амаль 50 тыс. км$^2$, г.зн. ледзь не 30% тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым усё цяжэй і цяжэй было спаганяць з насельніцтва харчовыя пастаўкі, шмат у якіх раёнах даводзілася рэквізаваць іх з дапамогаю войска і паліцыі. Лясныя атрады найчасьцей нападалі на сельскія гаспадаркі. І калі ў траўні 1942 г. на ўсім абшары генэральнай акругі Беларусі іх налічвалася 965, дык ужо пад канец году пад нямецкім кантролем заставалася толькі 312 — рэшту спалілі, ліквідавалі або занялі партызаны. Разам з гэтым было зьнішчана шмат лесапільняў, малочных заводаў і іншых малых прадпрыемстваў.

Аднак лягчэй было паліць маёнткі або забіваць безабаронных старастаў, чым схіляць сялянства да масавага выступленьня супраць акупантаў: тыя хоць і не сьпяшаліся з

**Табліца 8.** Вынікі партызанскіх дывэрсіяў на Беларусі ў 1942 г.

| Месяц | Выбухі на чыгунцы | Колькасьць зьнішчаных | |
|---|---|---|---|
| | | паравозаў | вагонаў |
| люты | 6 | 5 | 38 |
| сакавік | 25 | 5 | 37 |
| красавік | 65 | 13 | 45 |
| травень | 145 | 20 | 85 |
| чэрвень | 262 | 62 | 238 |
| ліпень | 398 | 107 | 430 |
| жнівень | 539 | 153 | 348 |
| верасень | 695 | 184 | 636 |

*Крыніца:* Рапарт Бэргера ад 22.10.1942 г., AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–175, ролік 129/2655182.

[28] Всенародное партизанское движение...Т. 1. С. 380.
[29] Выступ Гімлера на нарадзе групэнфюрэраў у Познані, 4.10.1943. IMGN, Bd. XXIX, S. 110.
[30] Всенародное партизанское движение... Т. 1. С. 477—478.
[31] IMGN, Bd. XI, S. 634. У літаратуры, прысьвечанай гэтаму пытаньню, найчасьцей фігуруе лічба 1500 — столькі “бурмістраў” было зьнішчана партызанамі па зьвестках, якія падаў Розэнбэрг у жніўні 1942 г. Аднак пры гэтым ён не адзначаў, што забойствы адбыліся менавіта на Беларусі. Можна меркаваць, што названая лічба датычыла ўсіх акупаваных земляў СССР // IMGN, Bd. XXXIX, 170–USSR, S. 398.

палітычнымі дэклярацыямі (вяскоўцаў гэта ня вельмі турбавала), аднак, нягледзячы на цяжкія рэквізыцыі, ішлі сялянам насустрач у эканамічнай галіне. Немцы пагадзіліся з самароспускам калгасаў у Заходняй Беларусі, а вясною 1942 г. правялі іх парцэляцыю і ўва ўсходніх раёнах[32]. Насуперак савецкай прапагандзе, сялянства падтрымала гэтую кампанію. Яна ўзбудзіла іх гаспадарчую актыўнасьць і паўплывала на рэалізацыю абавязковых паставаў, нягледзячы на цяжкасьці, якія стваралі партызаны. У лютым 1943 г. Кубэ паведамляў, што на падлеглым яму абшары Беларусі, у тым ліку і ў мясцовасьцях, дзе існавала партызанская пагроза, сяляне выконваюць свае абавязкі амаль на 70%[33]. Стаўленьне вёскі да акупацыйных уладаў вырастала, такім чынам, да ўзроўню першараднай палітычна–гаспадарчай праблемы. Удзел беларускай інтэлігенцыі ў арганізацыі школьніцтва, самапомачы або ўзнаўленьні культурнай дзейнасьці таксама трактаваўся як здрада савецкай радзіме.

Сутнасьць праблемы зводзілася ня толькі да памераў харчовых паставаў або адкрыцьця вясковай школкі. Барацьба вялася за тое, каб прыцягнуць насельніцтва на савецкі бок "другога фронту", які памалу распаўсюджваўся на ўсе галіны акупацыйнага жыцьця. Таму партызаны асабліва востра перасьледавалі ініцыятараў і ўдзельнікаў гэтага жыцьця, якое часова выйшла з–пад кантролю савецкай улады. На думку партызан і, напэўна, савецкага кіраўніцтва за лініяй фронту, гэтыя людзі былі здраднікамі і ўяўлялі большую палітычную небясьпеку, чым самі немцы, і таму галоўны ўдар павінен быць скіраваны супраць іх[34]. Не выпадкова савецкія партызаны прыкладалі значныя намаганьні, каб вывесьці насельніцтва на шлях актыўнай барацьбы зь немцамі або схіліць людзей да ўцёкаў у лясы, пад сваю ахову.

Для гэтага савецкі партызанскі рух выкарыстоўваў самыя разнастайныя сродкі, адным зь іх была прапаганда. З пачаткам 1942 г. у савецкім тыле пачала дзейнічаць радыёстанцыя "Савецкая Беларусь", паветраным шляхам і празь "Віцебскія вароты" дастаўлялася шмат літаратуры і газэтаў, прычым некаторыя зь іх выдаваліся спэцыяльна для насельніцтва акупаванай Беларусі. У сярэдзіне 1942 г. выйшлі першыя газэты, якія выдаваліся падпольшчыкамі і партызанамі. Іх колькасьць хутка расла і пад канец 1943 г. дасягнула 140 найменьняў, зь іх 65 друкавалася па–беларуску[35]. Савецкая прапаганда выкарыстоўвала маўчаньне нямецкіх уладаў наконт будучыні акупаваных усходніх земляў і даказвала, што нямецкая палітыка скіравана на тое, каб заняволіць савецкія народы, зьнішчыць іх нацыянальную самабытнасьць і цалкам ператварыць у нявольнікаў нямецкіх фэадалаў. Аграрную рэформу называлі ашуканствам, бо сяляне не атрымалі права ўласнасьці на зямлю[36]. Важную ролю адыгрывала і вусная партызанская прапаганда, у яе ў запасе таксама быў не адзін прыём. Распаўсюджваліся, напрыклад, чуткі, нібыта ня толькі немцы, але і Сталін праводзіць палітыку дэкалектывізацыі і пакідае сялянам права на ўласнае зычэньне выходзіць з калгасаў альбо нібыта партызаны ваююць не за Сталіна, а за новы лад у СССР[37]. Царква таксама была далучана да прапагандысцкага арсэналу. Паводле нямецкага паліцыйнага данясеньня, партызаны ў зонах свайго кантролю праводзяць яўна спрыяльную для царквы палітыку, дазваляюць адкрываць цэрквы, запрашаць сьвятароў і ставіць крыжы. У рапарце гаварылася далей, што ў адну новаадчыненую царкву прыбыў партызанскі атрад і яго камандзір укленчыў перад сьвятаром і "маліўся" так:

---

[32] Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 84/1324; Факторович А.А. Крах аграрной политики немецко–фашистских оккупантов в Белоруссии. Минск, 1979. С. 69.

[33] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 3.2.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 15/288.

[34] Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 235/2724566.

[35] БелСЭ. Т. VIII. С.13—17.

[36] Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943; Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg 1941 bis 1944 im Spiegel der deutschen Kampfanweisungen und Befehle. Götingen—Zürich—Frankfurt, 1969. S. 49.

[37] Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 235/2724566.

У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа! Браты і сёстры! Бог ёсьць і будзе! Мы былі часова затуманеныя, таму што пагарджалі Богам. Богу належыць маліцца. Маліцеся за нас і за ўсіх байцоў і партызанаў. Амін[38].

Але і афіцыйная прапаганда, і партызанскія хітрыкі, хаця і заходзілі ў сваім двудушшы далей за нямецкія, мелі ўсё ж абмежаванае практычнае значэньне, асабліва ў раёнах, якія кантраляваліся немцамі. Таму даводзілася карыстацца ня толькі пернікам, але і бізуном. Партызанскія ўлёткі пагражалі сьмерцю як самім паліцыянтам, так і іх сем'ям[39]. Сьмерцю пагражалі і сялянам за паставу немцам сена, жыта ці іншай сельгаспрадукцыі[40]. Гэтыя пагрозы праводзіліся ў жыцьцё, каб застрашыць насельніцтва. Таму гінулі ня толькі супрацоўнікі мясцовай адміністрацыі, але і сяляне, настаўнікі, дзяячы БНС і іншыя. Так, напрыклад, у Слонімскай акрузе з красавіка па лістапад 1942 г. ад рук партызан загінула 1024 асобы і 272 было паранена. Сярод забітых немцы, мясцовыя паліцыянты, беларускія, літоўскія і ўкраінскія салдаты складалі няпоўных 20%, тады як цывільнае насельніцтва, галоўным чынам сяляне і супрацоўнікі адміністрацыі, — больш за 80% (гл. табліцу 9). Пра частыя забойствы сярод цывільнага насельніцтва — сялян, настаўнікаў і службоўцаў — паведамляў і акруговы баранавіцкі камісар[41]. У Вялейскай акрузе да 25.2.1943 г. было забіта 815 чалавек, зь іх 106 — старастаў, валасных

**Табліца 9.** Людзкія страты, якія нанесьлі партызаны ў Слонімскай акрузе з 1.04. па 30.11.1942 г.

| | **Забіта** | | **Паранена** | |
|---|---|---|---|---|
| | **Чалавек** | | **Чалавек** | |
| Усяго | 1024 | 100,0 % | 272 | 100,0 % |
| сярод іх: | | | | |
| немцаў | 111 | 10,8 % | 45 | 16,5 % |
| мясцовых паліцыянтаў | 36 | 3,5 % | 82 | 30,1 % |
| Салдат | | | | |
| – беларусаў* | 33 | 3,2 % | 14 | 5,1 % |
| – літоўцаў | 6 | 0,6 % | 15 | 5,5 % |
| – украінцаў | 15 | 1,5 % | 9 | 3,3 % |
| чыноўнікаў і | | | | |
| супрацоўнікаў адміністрацыі | 140 | 13,7 % | 19 | 7,0 % |
| мясцовых жыхароў | 683 | 66,7 % | 88 | 32,4 % |

* З Слонімскага батальёну Беларускай самааховы, створанага летам 1942 г.

*Крыніца:* Ліст акруговага камісара ў Слоніме ў генэральны камісарыят у Менску ад 7.12.1942 (статыстычны дадатак), AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, ролік 30/644.

[38] Meldungen.., № 50, 16.4.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 235/2725822. Выкарыстаньне рэлігійных пачуцьцяў насельніцтва ў партызанскай прапагандзе не было зьяваю выключна беларускай — на іншых акупаваных землях СССР таксама ўжывалі такія мэтады для здабыцьця прыхільнасьці мясцовых жыхароў. Гэта можа сьведчыць аб існаваньні адпаведнай агульнай дырэктывы Цэнтральнага штабу партызанскага руху. Так, напрыклад, ува ўкраінскай вёсцы Тонеж на месцы спаленай немцамі царквы партызаны ўсталявалі крыж і ганаровую варту // Hesse. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 195.

[39] Meldungen.., № 22, 25.9.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 236/2724882. Тамсама прыводзіцца тэкст партызанскай адозвы з такімі пагрозамі — партызаны пакінулі яе ў вёсцы Сіньча, што на Меншчыне.

[40] Тамсама, r. 236/2724877.

[41] Справаздача камісара Баранавіцкай акругі ад 11.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/110.

чыноўнікаў і 500 іншых цывільных працаўнікоў і іх сямейнікаў, разам яны складалі 75% ад агульных людзкіх стратаў[42]. Імаверна, што і ў іншых беларускіх акругах панавала падобная сытуацыя.

Дывэрсійная, прапагандысцкая і тэрарыстычная дзейнасьць партызан імгненна аказала ўплыў на паводзіны насельніцтва. Ужо ў чэрвені 1942 г. у паліцыйным рапарце паведамлялася, што ў раёнах, якія знаходзіліся ў руках або пад кантролем партызан, гатоўнасьць насельніцтва да супрацоўніцтва зь немцамі значна аслабела. Так, напрыклад, забойства чатырох настаўнікаў з ваколіц Магілёва так узьдзейнічала на астатніх калег, што яны вырашылі пакінуць школьную працу[43]. У жніўні Лёзэ выказваў меркаваньне, што такія паводзіны насельніцтва былі не праявай сымпатыі да партызаншчыны, а нараджаліся з страху перад расстрэлам і спальваньнем маёмасьці[44]. Насамрэч такая ацэнка толькі часткова адпавядала рэчаіснасьці, бо тыя ж самыя нямецкія крыніцы часта адлюстроўвалі карэктнае стаўленьне партызан да мясцовага насельніцтва і імкненьне пераканаць яго ў неабходнасьці супольнага змаганьня супраць акупантаў[45].

Тым ня менш, незалежна ад тых альбо іншых настрояў людзей, якія на пераважнай частцы беларускай тэрыторыі мусілі выконваць яшчэ і нямецкія распараджэньні, партызаны так альбо іначай здабывалі сабе ўсё большую павагу. У такіх складаных умовах, калі ўлада зьмянялася часта, галоўным клопатам вяскоўцаў было захаваньне жыцьця і рэшткаў маёмасьці. Таму, у залежнасьці ад сытуацыі, народ ішоў у партызанскія атрады і забясьпечваў іх харчамі, фуражом, адзеньнем і інш. Савецкія аўтары сьцьвярджаюць, што гэта рабілася цалкам па добрай волі. Прынцыпова не пярэчылі гэтаму і тагачасныя нямецкія крыніцы, у іх рэдка натуюцца факты прымусовага ўступленьня ў партызаны. Нельга, аднак, сьцьвярджаць адназначна, што гэта заўсёды рабілася добраахвотна.

Сілы савецкіх партызан на Беларусі пад канец 1942 г. налічвалі каля 50 тыс. добра ўзброеных людзей, якія кантралявалі амаль 30% тэрыторыі краіны і ўжо тады маглі наносіць акупантам значную шкоду. Напэўна, такой колькасьці людзей было дастаткова, каб выконваць плянавыя заданьні. Пра гэта сьведчыць раней прыведзены факт, калі партызаны пераправілі для службы ў Чырвонай Арміі 20 тыс. мужчын, мабілізаваных на Віцебшчыне ўлетку 1942 г. Таму далейшае разьвіцьцё партызанскага руху і яго перарастаньне ў т.зв. усенародную барацьбу з фашыстамі адлюстроўвала, галоўным чынам, палітычныя ўстаноўкі КП(б)Б, скіраваныя на тое, каб паглыбіць сярод беларускага насельніцтва адчуваньне прысутнасьці савецкай улады і яе магутнасьць. Пры такіх абставінах пасьля першага, даволі стыхійнага і не заўсёды дастаткова скаардынаванага парыву ў пачатку 1943 г. партызанская дзейнасьць на Беларусі пачала прымаць больш рэгулярныя, плянавыя формы. У прыватнасьці, у атрадах пачалася барацьба за ўзмацненьне дысцыпліны і выкараненьне бандытызму і г.д. Важную ролю тут адыграла перамога Чырвонай Арміі пад Сталінградам, якая набліжала пэрспэктыву вяртаньня савецкай улады.

Зьмянілася стаўленьне да тэрарыстычнай дзейнасьці партызан. З аднаго боку, яна ўтрымлівала насельніцтва ў страху і падпарадкаваньні, з другога — спараджала шмат нявінных ахвяр і пабуджала людзей да справядлівай самаабароны. У канцы лютага 1943 г. ЦК КП(б)Б, урад і прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР выдалі адозву пад назваю: “Старастам, паліцыянтам і чыноўнікам гарадзкіх упраў і камэндатур, усім тым, хто быў ашуканы нямецкімі акупантамі, хто з страху служыць ворагу”. Улады рэспублікі зьвярталіся да іх з заклікам да супрацоўніцтва з партызанамі і абяцалі за гэта праба-

[42] Madajczyk Cz. Faszyzm i okupacje 1939—1945. Wykonywanie okupacji przez państwa Osi w Europie. T. I. Poznań, 1983. S. 606.

[43] Meldungen.., № 8, 9.6.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 235/2724499.

[44] IMGN, Bd. XXXIX, 170–USSR, S. 399.

[45] Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 235/2724566.

чэньне[46]. Аднак на самай справе такое рашэньне савецкіх уладаў, якое адмяняла ранейшыя, пераважна злачынныя, практыкі расстрэлаў старастаў, сялян ці настаўнікаў, было прынята раней, прыкладна — пад канец сьнежня 1942 г. Пра гэта сьведчыць данясеньне нямецкай паліцыі ад 8.1.1943 г. — напісана яно з дакладнасьцю, якая гаворыць пра неблагую агентурную працу ў партызанскіх атрадах:

> Паводле дырэктывы, нібыта перасланай з Масквы, чальцы бандаў павінны цяпер лагодна абыходзіцца з цывільным насельніцтвам. Бурмістраў і раённых кіраўнікоў, а таксама чальцоў мясцовых ахоўных атрадаў болей не павінны расстрэльваць, але перш за ўсё пераправаджаць іх у бандыцкія лягеры на допыты і разборы. У лягерох арыштантаў будуць намаўляць да супрацоўніцтва. У выпадку згоды іх павінны адпусьціць на волю, на месца свайго пасяленьня, з адпаведнымі заданьнямі[47].

Зьмена адносін да нядаўніх “здраднікаў савецкай радзімы” была цесна зьвязана з імкненьнем уладаў БССР надаць партызанскай барацьбе “ўсенародны характар” — дзеля гэтага неабходна было, каб яна распаўсюдзілася па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. А тым часам тут па–ранейшаму захоўвалася значная нераўнамернасьць. Праўда, партызанскія атрады засылаліся з Усходняй Беларусі ў Заходнюю, пасьпяхова выконвалі свае заданьні, але масавага наплыву тутэйшага жыхарства ў лясное войска да канца 1942 г. не назіралася. Паводле зьвестак Беларускага штабу партызанскага руху, на пачатку 1943 г. па ўсёй Беларусі налічвалася 56,7 тыс. партызан, пры гэтым у заходняй частцы рэспублікі, якая да 1939 г. знаходзілася пад Польшчай, іх было 11,1 тыс. чалавек[48]. У пераліку на 10 тыс. жыхароў (прымаючы пад увагу ўмоўна дадзеныя 1941 г.) тут выпадала 23 партызаны, у параўнаньні з 86 — ува Ўсходняй Беларусі. Але на самай справе, калі ўлічыць вынікі эвакуацыі насельніцтва ў абедзьвюх частках краю, гэты паказчык аказваўся на ўсходзе ў 5—6 разоў вышэйшы, чым на захадзе.

Такой вялікай разьбежнасьці нельга вытлумачыць выключна паводзінамі немцаў — паўсюдна на Беларусі яны, у прынцыпе, былі аднолькавыя. Ня трэба пераацэньваць і рознасьць грамадзкай сытуацыі на гэтых тэрыторыях. У Заходняй Беларусі тут, у пэўным сэнсе, былі нават лепшыя ўмовы для разьвіцьця партызанскага руху, чым на ўсходзе. Восеньню 1942 г. нямецкая служба бясьпекі адзначала “нечаканыя сымпатыі” да партызан сярод заходнебеларускіх малазямельных сялян пасьля скасаваньня савецкай аграрнай рэформы і аднаўленьня на вёсцы клясавых супярэчнасьцяў[49]. Не зусім пераканаўча гучыць і цьверджаньне савецкіх гісторыкаў, што такая сытуацыя з партызанскім рухам у Заходняй Беларусі склалася, маўляў, з прычыны хуткай эвакуацыі савецкіх уладаў і нешматлікіх партыйных і камсамольскіх кадраў, што ўлетку 1941 г. стрымлівала арганізацыю падпольных структур. Ход падзеяў ува Ўсходняй Беларусі паказаў, што галоўным імпульсам у разьвіцьці партызанскага руху на гэтай тэрыторыі былі рашэньні і дзеяньні савецкіх уладаў вясною 1942 г.

Некаторыя важныя акалічнасьці сьведчаць аб тым, што ў гэты пэрыяд савецкія ўлады сьвядома ўстрымліваліся ад інтэнсыфікацыі партызанскага руху ў Заходняй Беларусі з увагі на адносіны з польскім эміграцыйным урадам генэрала Сікорскага. На працягу 1942 г. на гэтых землях ішло разьвіцьцё польскага ўзброенага падпольля, а ўжо ў другім паўгодзьдзі былі створаны першыя атрады Арміі Краёвай[50]. І хаця польскія і савецкія ўлады ў аднолькавай ступені лічылі Заходнюю Беларусь за частку сваёй дзяржаўнай тэрыто-

---

[46] Всенародное партизанское движение... Минск, 1973. Т. 2. С. 241, 610.

[47] Meldungen.., № 36, 8.1.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 236/2725319.

[48] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 285; БелСЭ. Т. 8. С. 264.

[49] Рапарт камандзіра СД Остлянду да Лёзэ, 14.9.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 30/815.

[50] Prawdzic–Szlaski J. Nowogródczyzna w walce 1940—1945. Londyn, 1976. S. 115—116.

рыі, аднак мусілі прытрымлівацца міждзяржаўных дамоўленасьцяў, падпісаных у ліпені і сьнежні 1941 г., якія прадугледжвалі, між іншым, ваеннае супрацоўніцтва. Сытуацыя была складаная, і Галоўнае камандаваньне АК, незалежна ад сваіх генэральных плянаў і розных тактычных агаворак, загадала перайсьці да цеснага супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі[51]. Як паведамляў камандзір Наваградзкай акругі АК падпалкоўнік Януш Праўдзіц–Шляскі, у 1942 г. паміж прадстаўнікамі польскага і савецкага ўзброенага падпольля былі праведзены перамовы з мэтай наладзіць добрыя стасункі[52].

Можна дапусьціць, што і савецкія ўлады былі зацікаўлены ў тым, каб здабыць сымпатыі палякаў. Пра гэта сьведчаць ня толькі прыгаданыя перамовы з прадстаўнікамі польскага руху супраціву, але і цалкам адрознае стаўленьне савецкіх партызан да беларускіх і польскіх жыхароў, што "супрацоўнічалі" зь немцамі. У ліпені 1942 г. нямецкая служба бясьпекі зь зьдзіўленьнем адзначала, што на тэрыторыі Беларусі ў часе расстрэлаў бурмістраў, сялян, паліцыянтаў і інш. савецкія партызаны ашчаджаюць палякаў, вяртаюць ім адабраную жывёлу, а польскім каталіцкім ксяндзам дастаўляюць харчы[53]. Пры такой атмасфэры савецкія партызаны атрымлівалі часам дапамогу ад палякаў, сярод якіх былі і службоўцы мясцовай адміністрацыі[54]. Аднак, думаецца, што горкі досьвед, набыты ў 1939—1941 г., не спрыяў шырокаму распаўсюджаньню ідэі такога супрацоўніцтва. Ды, зрэшты, у панараме тагачасных узаемадачыненьняў былі таксама і іншыя прыклады: здараліся забойствы колішніх уладальнікаў маёнткаў, якія цяпер лічыліся іхнімі адміністратарамі[55]. Цяжка вызначыць, напэўна, што было прычынаю кожнага такога здарэньня: загад партызанскага камандаваньня, помста мясцовых сялян або проста выпадковасьць.

Засталося вельмі мала дэталяў тагачаснага супрацоўніцтва паміж польскім і савецкім узброеным падпольлем у Заходняй Беларусі. Ні польскія, ні савецкія гісторыкі не ўдзялялі гэтай праблеме асаблівай увагі, ацэньваючы яе галоўным чынам праз прызму пазьнейшай варожасьці. Затое нямецкая выведка пільна сачыла за кантактамі польскага і савецкага супраціву[56]. У студзені яна паведамляла, што кіраўнікі польскага падпольля пачалі тлумачыць сваім мясцовым суродзічам, што трэба ісьці на супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі, бо з СССР заключана пагадненьне, паводле якога Польшча будзе адроджана пасьля вайны ў даверасьнёўскім абшары[57]. У ліпені адзначалася, што збліжэньне польскага і савецкага руху супраціву расьце "з дня на дзень" у арганізацыйнай і апэрацыйнай галіне[58]. Паводле сьведчаньняў Праўдзіца–Шляскага, такія супольныя партызанскія апэрацыі былі рэдкасьцю, апошняя зь іх — напад на пост жандармэрыі ў Жалудку — адбылася вясною 1943 г.[59].

Але пасьля таго, як у красавіку 1943 г. савецкае кіраўніцтва разарвала адносіны з

---

[51] Тамсама, с. 109.

[52] Тамсама.

[53] Teilnahme der polnischen Widerstandsbewegung am Partisanenkampf // Meldugen.., № 11, 10.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 325/2724561.

[54] Камандзір партызанскага атраду "Спартак" дакладваў, што 24.9.1942 ён сустрэўся з кіраўніком Браслаўскага павету Васілеўскім і яго намесьнікам Кавалеўскім, якія паведамілі, што гатовыя да супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі і даставілі 2 кулямёты, 7 вінтовак, 5 пісталетаў, больш за 5 тыс. патронаў, а таксама інфармацыю аб перамяшчэньнях карнага атраду і іншыя зьвесткі // Всенародное партизанское движение... Т. 1. С. 329.

[55] Пра гэта сьведчаць нэкралёгі, што друкаваліся ў 1942 г. у віленскай газэце "Goniec Codzienny".

[56] Ereignismeldungen.., № 153, 9.1.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 234/2723546; Meldungen.., № 9, 26.6.1942 // AGKBZH, ATW IX, Dok. Obrony. T.X, S. 275, 278.

[57] Ereignismeldungen.., № 154, 12.1.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 234/2723572—573.

[58] Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 235/2724565—566.

[59] Prawdzic–Szlaski. S. 109.

польскім эміграцыйным урадам, адносіны ў падпольлі рэзка зьмяніліся. Дагэтуль саюзьніцкая Армія Краёвая раптам ператварылася ў “прафашысцкую арганізацыю Сікорскага”. Цяпер савецкае падпольле імкнулася супрацьпаставіць ёй “нацыянальны, дэмакратычны характар польскага партызанскага руху, што разьвіваўся ў цесным супрацоўніцтве зь дзейнасьцю савецкіх партызан”[60]. Прадстаўніком гэтага руху павінна была стаць створаная ў траўні 1943 г. падпольным абкамам КП(б)Б у Баранавічах невялікая спэцгрупа на чале з А. Сьвентажэцкім[61]. 22.6.1943 г. праблема агульнага разьвіцьця партызанскага руху ў Заходняй Беларусі разглядалася на пленуме ЦК КП(б) Беларусі. Была прынята адпаведная рэзалюцыя, а для падпольных партыйных арганізацыяў высланы ліст “Аб ваенна–палітычных задачах працы ў заходніх абласьцях БССР”. У ім былі сфармуляваны наступныя палажэньні:

1. Заходнія вобласьці савецкай Беларусі ёсьць неад’емнай часткай беларускай рэспублікі. На яе тэрыторыі, акупаванай Нямеччынай, дазваляецца дзейнасьць толькі тых групаў, арганізацыяў і атрадаў, якія кіруюцца інтарэсамі СССР;
2. Існаваньне разнастайных арганізацыяў, якімі кіруюць польскія буржуазна–нацыяналістычныя цэнтры, трэба разглядаць як незаконнае ўмяшальніцтва ў інтарэсы нашай айчыны;
3. Нашай найпершай задачай ёсьць як мага шырэйшае разьвіцьцё савецкага партызанскага руху, далучэньне да яго ўсіх пластоў насельніцтва, у тым ліку і палякаў. Атрады і групы, створаныя польскімі рэакцыйнымі нацыяналістычнымі коламі, неабходна ізаляваць ад насельніцтва шляхам стварэньня сярод польскіх працоўных савецкіх атрадаў і партызанскіх групаў;
4. Неабходна ўсялякімі сродкамі весьці барацьбу супраць польскіх буржуазна–нацыяналістычных атрадаў і групаў[62].

У адпаведнасьці з рашэньнем ЦК КП(б)Б неўзабаве з Усходняй Беларусі ў Заходнюю перамясьцілася 9 партызанскіх брыгад, 10 атрадаў і 15 арганізацыйных групаў, якія павінны былі актывізаваць партызанскі рух у гэтай частцы рэспублікі[63]. Між іншым, у Баранавіцкую і Беластоцкую вобласьці меркавалася перакінуць 40 атрадаў — па адным на кожны раён. У іх склад абавязкова павінна было быць уключана па некалькі адданых палякаў і беларусаў, што ведалі польскую мову”[64]. На базе гэтых засланых атрадаў была створана сетка падпольных партыйных і камсамольскіх арганізацыяў. Так, напрыклад, калі яшчэ ў сьнежні 1942 г. у Заходняй Беларусі існавала толькі 10 падпольных райкомаў камсамолу, дык пад канец 1943 г. іх колькасьць павялічылася да 87[65]. Значна пашырылася прапагандысцкая дзейнасьць, распачалося, між іншым, выданьне 14 новых падпольных газэт, зь іх 4 — на польскай мове[66].

У выніку, пасьля ўсіх гэтых захадаў савецкіх уладаў асабовы склад партызанскіх атрадаў у Заходняй Беларусі павялічыўся на працягу 1943 г. з 11,1 тыс. да 36,8 тыс. чалавек[67], прычым самы хуткі яго рост назіраўся ў другім паўгодзьдзі. Прыблізна палова з гэтых людзей прыбыла з партызанскіх фармаваньняў, раней разьмешчаных ува

[60] Кравченко И.С., Крючок Р.Р. Подполье в западных областях Белоруссии // Герои подполья. Минск, 1970. С. 398.
[61] Тамсама, с. 397; Juchniewicz M. Polacy w radzieckim ruchu partyzanckim 1941—1945. Warszawa, 1975. S. 242.
[62] Кравченко И.С., Крючок Р.Р. С. 399.
[63] Тамсама, с. 382, 400.
[64] Всенародное партизанское движение... Т. 2. С. 467—468.
[65] Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945). Минск, 1976. С. 284—291.
[66] Кравченко И.С., Крючок Р.Р. С. 400.
[67] БелСЭ. Т. 8. С. 264.

Ўсходняй Беларусі, пасьля вэрбоўкі сярод мясцовага насельніцтва іх лічба падвоілася. Прыведзеныя факты несумненна сьведчаць, што разьвіцьцё партызанскага руху на гэтых землях было зьвязана з імкненьнем савецкіх уладаў забясьпечыць свае палітычныя інтарэсы ў Заходняй Беларусі. Апрача супольных для ўсёй тэрыторыі краю вайсковых, гаспадарчых і палітычных задач, савецкія партызаны ў заходніх абласьцях павінны былі яшчэ весьці барацьбу супраць польскага падпольля. Кіраўніцтва гэтага падпольля ў адказ распачало зь лета 1943 г. умацаваньне старых і стварэньне новых атрадаў АК. А ўжо з восені 1943 г. адбываліся даволі частыя ўзброеныя сутычкі. Частка зь іх была вынікам загаду Панамарэнкі пра раззбройваньне атрадаў АК[68].

Антыакоўская барацьба была не адзіным матывам у разьвіцьці савецкага партызанскага руху ў Заходняй Беларусі, пра гэта сьведчыць далейшы буйны яго рост па ўсёй тэрыторыі краю. Гэтаму спрыяла перамога пад Сталінградам і контранаступ Чырвонай Арміі на поўдні, а таксама ўжо прыгаданае раней абяцаньне амністыі для тых, хто супрацоўнічаў зь немцамі. Усе гэтыя фактары выкарысталі партызаны, так што ў выніку за 1943 г. павялічылася колькасьць дэзэртэраў, асабліва сярод паліцыянтаў і былых чырвонаармейцаў — чальцоў разнастайных вайсковых фармаваньняў, якія знаходзіліся на нямецкай службе. Між іншым, ужо восеньню 1942 г. на бок партызан перайшла частка батальёну “Дняпро”, разьмешчанага ўва Ўсходняй Беларусі; у лютым 1943 г. гэты крок паўтарыў 900–асабовы батальён прыволскіх татар на Віцебшчыне, у ліпені — рота т.зв. Расейскай народнай арміі, а ў жніўні — 1–я Расейская нацыянальная брыгада СС пад камандаваньнем Гіль–Радзіёнава, у якой налічвалася больш за 2500 чалавек[69]. Нягледзячы на шматлікія лютыя злачынствы, учыненыя супраць беларускага насельніцтва, яна была перайменавана ў 1–ю Антыфашысцкую партызанскую брыгаду. У выніку, за 1943 г. да партызан перайшло каля 12 тыс. чалавек з разнастайных антысавецкіх фармаваньняў, прычым пераважна ў складзе вялікіх групаў[70]. Адначасова з–за лініі фронту было перакінута больш за 1900 чалавек[71].

Аднак галоўнай крыніцай партызанскага папаўненьня было мясцовае насельніцтва. Паводле статыстыкі Беларускага штабу партызанскага руху, на працягу 1943 г. у лясныя атрады ўступіла каля 60 тыс. жыхароў вёсак і гарадоў Усходняй Беларусі. Бясспрэчна, частка з гэтых людзей кіравалася ідэалягічнымі перакананьнямі альбо страхавалася такім чынам на будучыню, да прыходу савецкай улады. Але вясковае насельніцтва, зь якога ішло найбольшае папаўненьне партызанскіх атрадаў, дзейнічала, у прынцыпе, зь іншых меркаваньняў. Гэтых людзей гнаў у лясы страх перад нямецкімі карнымі экспэдыцыямі, якія асабліва ўзмацніліся ў 1943 г.: у партызанскіх зонах паліліся вёскі, жыхароў, якіх падазравалі ў супрацоўніцтве зь ляснымі атрадамі, забівалі або вывозілі ў канцэнтрацыйныя лягеры ці на працу ў Нямеччыну. Нельга таму назваць адно пэўнае матываваньне паводзін вясковага насельніцтва — людзі часта далучаліся да партызан, каб захаваць жыцьцё[72].

[68] Prawdzic–Szlaski. S. 111; Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Минск, 1951. Т. II. С. 888—903.

[69] Мачульский П. Вечный огонь. Партизанские записки. Минск, 1967. С. 150, 233—246; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 282.

[70] Тамсама, с. 281.

[71] Тамсама, с. 280.

[72] У беларускай эміграцыйнай публіцыстыцы здаўна ўсталявалася меркаваньне, што нямецкія карныя экспэдыцыі, якія прывялі да росту партызанскіх шэрагаў, былі сьвядома справакаваныя савецкімі партызанамі. Гл. напр.: А.К. Праўда аб савецкай партызаншчыне // Беларус (Нью–Ёрк). 1969. № 145. Травень. С. 2. Менскія гісторыкі катэгарычна аспрэчваюць такі погляд і ў сваю чаргу называюць яго “бессаромнай правакацыяй” // Раманоўскі В. Супраць фальсіфікацыі гісторыі савецкага партызанскага руху. Мінск, 1962. С. 11. І сапраўды, нялёгка выносіць ацэнку ў гэтай справе: з аднаго боку, нямецкія рэпрэсіі не ў такой ступені закранулі раёны, дзе партызаны ня дзейнічалі, з другога боку, на

Так, на працягу 1943 г. асабовы склад савецкага партызанскага падпольля на Беларусі павялічыўся ў 2,7 раза — да 153,5 тыс. чалавек (гл. табліцу 10), галоўным чынам за кошт мясцовага насельніцтва. Адпаведна павялічылася доля беларусаў у яго шэрагах — улетку 1943 г. яна дасягала 65,2%. За гэты год пад сталым кантролем партызан апынулася 37,8 тыс. км$^2$ — у параўнаньні з ранейшымі 15 тыс. км$^2$ — гэта было 17% даваеннай тэрыторыі БССР. У Віцебскай, Палескай і Магілёўскай абласьцях зона партызанскага кантролю ахоплівала ад 20% да 25%, а ў Менскай і Пінскай дасягала $^1/_3$ іх абшару[73]. У большасьці сваёй гэта былі маладаступныя раёны — балоцістыя і лясістыя — з даволі нізкім (апрача дрэванарыхтоўкі) гаспадарчым значэньнем. Яны сталі выгоднымі базамі для партызанскіх апэрацыяў на гусьцей заселеных тэрыторыях, якія, паводле разьлікаў савецкіх вучоных, займалі плошчу каля 70 тыс. км$^2$. У суме, такім чынам, пад поўным або частковым кантролем партызан пад канец 1943 г. знаходзілася 108 тыс. км$^2$, г.зн. каля паловы тэрыторыі БССР (у межах 1941 г.)[74]. За гэтыя землі, якія знаходзіліся паміж

**Табліца 10.** Асабовы склад савецкіх партызанскіх атрадаў на Беларусі (тыс. чал.)

| | **Агулам** | **У тым ліку** | |
|---|---|---|---|
| | | **Усходняя Беларусь** | **Заходняя Беларусь** |
| студзень 1943 | 56,7 | 45,6 | 11,1 |
| сьнежань 1943 | 153,5 | 116,7 | 36,8 |

*Крыніца:* Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. Минск, 1975. С. 285; БелСЭ. Т. 8. Минск, 1975. С. 264.

зонамі пастаяннага нямецкага і партызанскага кантролю, да канца акупацыі вялася бязьлітасная барацьба. Яна пацягнула за сабой шматлікія ахвяры сярод цывільнага насельніцтва і вялікія матэрыяльныя страты.

## Дзьве лініі бэрлінскай усходняй палітыкі

Параза пад Масквой паказала, што на Ўсходнім фронце баі зацягнуцца надоўга. Гэта прымусіла гітлераўскае камандаваньне перагледзець шмат якія з сваіх прынцыпаў у вядзеньні вайны. Найперш былі скасаваны распараджэньні наконт частковай дэмабілізацыі нямецкай эканомікі, выдадзеныя летам 1941 г. Замест гэтага прамысловасьць Нямеччыны і акупаваных краін скіроўвалася на як мага хутчэйшае павелічэньне і сталы выпуск ваеннай прадукцыі. Пры гэтым улічвалася выкарыстаньне сыравінных, людзкіх і сельскагаспадарчых рэсурсаў акупаванай часткі СССР, усё большае значэньне надавалася ахове дарожных шляхоў ад нападаў партызан у тыле Ўсходняга фронту. Пры такой сытуацыі расло перакананьне, што без падтрымкі мясцовых жыхароў рэалізаваць гэтыя пляны ня ўдасца, часьцей выказваліся патрабаваньні спыніць ранейшае жорсткае абыходжаньне з гэтым насельніцтвам. Гітлера намаўлялі абвясьціць дадатную палітычную праграму, якая дадала б ахвоты акупаваным народам СССР пайсьці на больш цеснае супрацоўніцтва зь Нямеччынай.

Неабходнасьць заваяваць сымпатыі мясцовага насельніцтва раней за іншых усьвядомілі нямецкія вайсковыя колы, у большасьці з групы армій “Цэнтар”. Ім найбольш выпала на сабе адчуць балючыя ўдары савецкага контранаступу. Менавіта ў гэтых колах зарадзіліся патрабаваньні наконт таго, каб весьці вайну пад палітычнымі лёзунгамі, якія ўзьдзейнічалі б на мясцовае насельніцтва. Яны ж прапанавалі стварэньне дапаможных вайсковых часьцей з савецкіх ваеннапалонных і тутэйшых цывільных жыхароў. Фэльдмаршал фон Бок выступіў з мэмарыялам у гэтай справе, а фэльдмаршал фон

Беларусі было досыць многа добраахвотнікаў, якія самі ішлі ў партызанскія атрады, так што не было сэнсу выкарыстоўваць такія жудасна жорсткія мэтады вэрбоўкі.

[73] Гісторыя БССР. Т. 4. С. 313.

[74] Тамсама, с. 312.

Браўхіч быў перакананы, што ад вырашэньня гэтай праблемы залежыць лёс вайны. Генэральны інтэндант Вэрмахту пісаў Розэнбэргу 13.12.1941 г., што ваенная сытуацыя вымагае таго, каб перацягнуць мясцовае насельніцтва на бок Нямеччыны і выклікаць рэвалюцыйны антыбальшавіцкі рух. Падобную думку выказаў у сакавіку 1942 г. камандуючы тылам групы армій "Цэнтар" Шэнкендорф[75]. Гэтыя імкненьні вайскоўцаў знайшлі падтрымку ў часткі буйнейшых нямецкіх палітыкаў, якія бачылі, што гаспадарчыя, вайсковыя і палітычныя саступкі могуць пасьпяхова дапамагчы ў выкарыстаньні рэсурсаў акупаваных усходніх земляў.

Аднак Гітлер паразу пад Масквой успрыняў як часовую няўдачу, ён разьлічваў улетку 1942 г. на новы, пераможны наступ і таму не пагадзіўся з пададзенымі меркаваньнямі. 14.12.1941 г. ён паведаміў Розэнбэргу, што лічыць немэтазгодным ужо цяпер заклікаць іншыя народы да супрацоўніцтва, бо ў будучыні гэта дало б ім падставы для высоўваньня адпаведных прэтэнзій[76]. Такія погляды Гітлера грунтаваліся на перакананьні ў расавай перавазе над усходнімі народамі — за іх кошт Нямеччына павінна была пашырыць сваю жыцьцёвую прастору. Пачатковыя ваенныя посьпехі і акупацыя вялікіх земляў СССР умацоўвалі гэтыя намеры і распальвалі захопніцкія жаданьні да нечуваных памераў. Ужо з восені 1941 г. Гітлер пачаў усё часьцей разважаць пра будучае нямецкае панаваньне на ўсходніх землях, найбольш поўна ён выказаўся на гэты конт вясною 1942 г. Гэтыя выказваньні, т.зв. *Tischgespräche* — размовы за гарбатаю, мелі на праўдзе неафіцыйны характар, аднак у пэўнай ступені пралівалі сьвятло на паводзіны выканаўчага апарату. Яны вяліся вакол наступных прынцыповых пытаньняў:

1. Мэтаю нямецкай палітыкі на ўсходніх акупаваных савецкіх землях павінна быць іх гаспадарчае выкарыстаньне. Трэба пастарацца выцягнуць з гэтых раёнаў усё, што толькі ўдасца. Зацікаўленасьць насельніцтва ў паставах сельгаспрадукцыі і працоўнай сілы для шахтаў і прамысловасьці райху павінна стымулявацца паставамі вырабаў нямецкай прамысловасьці — іх продаж павінен весьціся ў адпаведнасьці з патрэбамі мясцовага жыхарства.

2. Галоўны прынцып нямецкага панаваньня на гэтай тэрыторыі — поўнае задавальненьне жаданьняў насельніцтва ў галіне індывідуальных свабод і пры гэтым — пазьбяганьне стварэньня якіх–небудзь мясцовых дзяржаўных структур. Найвышэйшая ступень улады, якая можа быць даступнай для тутэйшых жыхароў, — гэта валасная ўправа. Даверыць ім уладу вышэйшага ўзроўню — значыць стварыць магчымасьць аб'яднаньня воласьцяў у буйнейшыя адміністрацыйныя адзінкі, а гэта магло б быць выкарыстана супраць інтарэсаў райху. Натуральна, належыць забараніць стварэньне на акупаваных землях любых нацыянальных арганізацыяў. Задачаю нямецкіх камісараў у гэтай галіне ёсьць выключна нагляд і кіраваньне гаспадаркай.

3. На ўсёй акупаванай савецкай тэрыторыі парадак і бясьпеку павінны ўтрымліваць нямецкія сілы. Стварэньне ўзброеных сілаў заваяваных народаў было б вялізарным нонсэнсам: як вучыць гісторыя — гэта *conditio sine qua non* (абавязковая ўмова) упадку пануючых нацыяў.

4. Мясцовае насельніцтва належыць утрымліваць на як мага ніжэйшым узроўні культуры. Школы дапушчальныя толькі на пачатковым узроўні, пры гэтым ня трэба ўводзіць абавязковага школьнага навучаньня. Уменьне чытаць і пісаць — увогуле шкоднае, бо дае магчымасьць больш сьветлым галовам спазнаваць гісторыю, а значыць, даходзіць і да палітычнага мысленьня, якое магло б сваім вастрыём павярнуцца супраць Нямеччыны. Таму лепей у кожнай вёсцы паставіць рэпрадуктары і перадаваць навіны, пацешлівыя праграмы і вясёлую музыку, чым прывучаць насельніцтва да самастойнага навуковага і палітычнага мысленьня. Адначасова трэба імкнуцца да дэзынтэграцыі

[75] Madajczyk. T. I. S. 578.

[76] Vermerk Rosenbergs über seine Unterredung mit Hitler 14.12.1941 // IMGN, Bd. XXVII, 1517–PS, S. 270.

грамадзтва, напрыклад, у галіне рэлігіі пажадана было б у кожнай вёсцы мець асобную сэкту.

5. Трэба імкнуцца да абмежаваньня вялікага натуральнага прыросту мясцовага насельніцтва. Дзеля гэтага трэба наладзіць шырокі продаж процізачаткавых сродкаў і дазволіць перарываньне цяжарнасьці. За рэдкім выняткам нямецкім лекарам неабходна пазьбягаць аказваньня мэдыцынскай дапамогі мясцовым жыхарам. Ня варта займацца прафіляктычным прышчэпліваньнем і праводзіць дэзынфэкцыю сярод гэтых людзей[77].

Згодна з такімі тэзамі Гітлера, Гімлер і плянавікі СС старанна ўзяліся за праект германізацыі ўсходніх земляў: меркавалася "ачысьціць" гэтыя землі ад часткі насельніцтва, а астатнюю, расава прыгодную яго частку, анямечыць. Гэты праект атрымаў назву "Генэральны плян Ост" (ГПО) і быў складзены не пазьней за вясну 1942 г. у Галоўнай управе бясьпекі райху. У ім прадугледжвалася высяленьне ў Сібір больш за 30 млн. прыбалтаў і славян, у прыватнасьці, 65% заходніх украінцаў і 75% беларусаў[78].

Аднак гэты праект не знайшоў сур'ёзнага водгуку ў ведамстве СС па плянаваньні ўзмацненьня Нямеччыны. У чэрвені 1942 г. яго шэф, прафэсар Конрад Мэер–Гетлінг, прапанаваў Гімлеру новы, значна больш сьціплы варыянт ГПО, дзе прадугледжвалася, між іншым, стварэньне 36 калянізацыйных базаў, зь іх 14 — у генэральным губэрнатарстве, 8 — на Ўкраіне і 14 — у Остляндзе, разьмешчаных уздоўж чыгуначных ліній, што вялі з Кёнігсбэргу і Вільні да Ленінграду і зь Нямеччыны ў Крым[79]. Беларусь пры гэтым абміналася. Праект не знайшоў у Гімлера падтрымкі. Ён дамагаўся, каб у ГПО было заплянавана поўнае анямечаньне Эстоніі, Латвіі і генэральнага губэрнатарства за дваццацігадовы тэрмін. Гімлер прадбачыў пэўныя ўскладненьні ў Літве, а пра Беларусь і Ўкраіну ўвогуле не згадаў[80]. Таму Мэер–Гетлінг заняўся распрацоўкай наступнага варыянту ГПО з улікам указаньняў Гімлера і сядзеў над ім аж да лютага 1943 г.

Гітлер імкнуўся да абсалютнай улады на ўсходзе, ён лічыў, што апрача немцаў ні адна нацыя ня мае там права на зброю. Аднак Вэрмахт і Гімлер спачатку рознымі спосабамі абміналі гэтую забарону, пазьней жа і сам Гітлер зьмяніў свае погляды. Акрамя ўкраінскіх, беларускіх і літоўскіх дывэрсійных атрадаў, створаных Абвэрам увесну 1941 г., пра гэта сьведчыла і зброя, якую ў першыя дні вайны немцы скідалі з самалётаў для літоўскіх паўстанцаў[81]. Крыху пазьней на ўсіх акупаваных усходніх тэрыторыях была арганізавана дапаможная паліцыя, а ў Прыбалтыцы і на Ўкраіне — паліцыйныя батальёны, якія мелі ўсе прыкметы вайсковых фармаваньняў. У канцы 1941 г. Гітлер пагадзіўся на стварэньне казацкіх, грузінскіх, армянскіх, туркестанскіх і каўкаскіх мусульманскіх легіёнаў, якія Вэрмахт фармаваў з савецкіх ваеннапалонных[82]. У сярэдзіне 1942 г. пад эгідай СС распачалося стварэньне эстонскіх і латыскіх легіёнаў.

Пасьля паразы пад Масквой і вялікіх людзкіх стратаў у баях на ўсходзе камандаваньне Вэрмахту з большай настойлівасьцю пачало дамагацца стварэньня буйных славянскіх

---

[77] Jacobsen H.A. Misstrauische Nachbarn. Deutsche Ostpolitik 1919—1970. Düsseldorf, 1970. S. 178—180, 184—185.

[78] Гэты праект не захаваўся. Мы можам толькі меркаваць пра яго прынцыповыя палажэньні, абапіраючыся на крытычныя заўвагі Эргарда Вэтцэля з *Rassenpolitischesamt*, зьмешчаныя ў яго мэмарыяле "Stellungnahme und Gedanken zum Generalplan Ost des Reichsführers SS" ад 22.4.1942 // Biuletyn Głównej Komisji Badania Zbrodni Niemieckich. T. V. Warszawa, 1949. S. 209—242.

[79] Generalplan Ost // Przegląd Zachodni. 1961. № 3. S. 66—70.

[80] Ліст Гімлера да Грайфэльта ад 12.6.1942 // Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. 1958. Heft 3. S. 325.

[81] На другі дзень вайны, 23.6.1941, я стаў выпадковым сьведкам таго, як самалёты Люфтвафэ скідвалі зброю для літоўскіх партызанаў. Справа дзеялася пры дарозе, паблізу гасьцінца, што вёў зь мястэчка Дукшты Сьвянцянскага павету ў вёску Гіруцішкі. На невысокім узгорку былі адпаведна раскладзеныя і ўмацаваныя каменьнямі вялікія сувоі белага палатна, якія паслужылі за ўмоўны знак.

[82] Dallin A. German Rule in Russia 1941—1945. A Study of Occupation Policies. London, 1957. P. 538—540.

вайсковых фармаваньняў. У студзені 1942 г. фэльдмаршал Райхэнаў прэзэнтаваў Гітлеру праект фармаваньня ўкраінскіх і беларускіх дывізій, але гэтая прапанова не прайшла[83]. Затое Гітлер дазволіў выкарыстоўваць савецкіх ваеннапалонных у т.зв. добраахвотных дапаможных атрадах (“Hiwi”). Самыя першыя зь іх узьніклі ў тыле групы армій “Цэнтар” — ува Ўсходняй Беларусі (між іншым, батальёны “Дняпро”, “Бярэзіна”, “Прыпяць”, “Асынторф”). Яны не прымалі ўдзелу ў франтавых баях, але выконвалі гаспадарчыя заданьні, вялі ахову і вартаўніцтва, а зь цягам часу іх сталі выкарыстоўваць у барацьбе з савецкімі партызанамі. Гэтыя фармаваньні — т.зв. *Osttruppen* — складаліся з былых чырвонаармейцаў рознай нацыянальнасьці, таму ня мелі акрэсьленага нацыянальнага характару, аднак пазьней некаторыя зь іх прысвоілі сабе неафіцыйныя назвы: “Русская освободительная армия” (РОА), “Русская национальная народная армия” (РННА) і інш. Чарговай саступкай Гітлера была дырэктыва Галоўнага камандаваньня Вэрмахту № 46 ад 18.8.1942 г., якая давала дазвол на стварэньне мясцовых фармаваньняў супраць партызан пад эгідай СС[84].

Аднак дазвол на стварэньне *Osttruppen* і лякальных антыпартызанскіх атрадаў не азначала яшчэ фармаваньня нацыянальных вайсковых адзінак, за якія яны часам сябе ўважалі. Гэтыя фармаваньні знаходзіліся пад камандаю нямецкіх афіцэраў, на забесьпячэньні Вэрмахту ці СС і выкарыстоўваліся ў адпаведнасьці з загадамі акупацыйных уладаў. Але найважнейшага матыву барацьбы на баку Нямеччыны — палітычнай пэрспэктывы — гэтыя атрады ня мелі, таму настроі салдат і мясцовых камандзіраў увесь час ваганіся паміж надзеяй на зьмену нямецкага палітычнага курсу і чаканьнем зручнага моманту для дэзэртэрства. Усё ішло па зачараваным коле: такія настроі, натуральна, нараджалі ў немцаў недавер да *Osttruppen* і іншых атрадаў, прычым не рабілася нічога для ліквідацыі прычын гэтага недаверу.

Розэнбэрг і яго калегі — Мэер, Ляйбрант, Бройтыгам, Мэндэ і іншыя, якіх часам называлі прыхільнікамі лагоднага курсу да акупаваных усходніх нацыяў — даўно зразумелі, што без пазытыўнай палітычнай праграмы прыцягнуць гэтае насельніцтва да супрацоўніцтва зь Нямеччынай будзе цяжка. Але трэба заўважыць, што ў захапленьні ад першых гучных посьпехаў Вэрмахту на Ўсходнім фронце Розэнбэрг ня стаў пярэчыць супраць таго, што Гітлер замарозіў яго палітычныя канцэпцыі, распрацаваныя вясною 1941 г., і, напэўна, пагадзіўся на канчатковае вырашэньне гэтых праблем пасьля хуткай спадзяванай перамогі.

Аднак параза пад Масквой і грозны рост партызаншчыны стварылі сытуацыю, якая вымушала шукаць нейкага паратунку. Адзначым, што Розэнбэрг даволі рана зразумеў сур’ёзнасьць становішча: ужо 14 сьнежня ён раіўся з Гітлерам, але не дабіўся яго падтрымкі на тое, каб зьмяніць ранейшую палітычную тактыку. Цяжка, аднак, з упэўненасьцю сьцьвярджаць, што ў гэты час Розэнбэрг супраціўляўся пазыцыі фюрэра. Для ўжытку прапаганды ён фармуляваў прыгожыя фразы пра неабходнасьць шанаваньня нацыянальнай адметнасьці ўсходніх нацыяў альбо пра ролю Нямеччыны на ўсходзе як правадыра гэтых народаў, а ня іх калянізатара. Аднак у выдадзенай ім у красавіку 1942 г. інструкцыі для адміністрацыі райхскамісарыятаў Остлянд і Ўкраіна, т.зв. “карычневай папцы”, сьцьвярджалася выразна, што

> прызначэньне ўсходніх земляў — ня ў тым, каб разьвіваць уласнае, незалежнае ад эўрапейскіх патрэбаў жыцьцё, яны хутчэй ёсьць толькі часткаю вялікаянямецкай і эўрапейскай жыцьцёвай прасторы і маюць у гэтай галіне свае акрэсьленыя задачы[85].

[83] Ibidem. P. 515.

[84] Ibidem. P. 542.

[85] Die Zivilverwaltung in den besetzten Ostgebieten (Braune Mappe), Teil A. Richtlinien für die Wirtschaftsführung. Berlin, April 1942 // AGKBZH, ATW XI, Dok. Prokuratury. T. 87. Document Book 122, part B.

У гэтай сытуацыі Розэнбэрг і яго міністэрства разьлічвалі дабіцца прыхільнасьці жыхароў усходніх земляў шляхам ілюзорных саступак, якія не супярэчылі б асноўным намерам Гітлера. У сакавіку 1942 г. ён выступіў супраць жорсткага абыходжаньня з жыхарамі гэтых тэрыторый, бо такія паводзіны ўзмацнялі супраціў Чырвонай Арміі і насельніцтва. Прапаноўвалася пазьбягаць да ўсходніх земляў такога вызначэньня, як "калёнія", — маўляў, нямецкая калянізацыйная кампанія можа праводзіцца бяз шкоды для мясцовага насельніцтва[86]. У другім цыркуляры Розэнбэрга ад 9.6.1942 г. падначаленым яму ўстановам катэгарычна забаранялася ўжываць целавыя кары, бо гэта ганебна для немцаў — "нават бальшавікі" іх пазьбягалі[87]. Нямецкім службоўцам рэкамэндавалася вывучаць мясцовыя мовы — беларускую і ўкраінскую (літоўскай, латыскай і эстонскай гэта не датычыла, бо меркавалася, што неўзабаве народы Прыбалтыкі самі будуць гаварыць па–нямецку)[88].

Вялікія надзеі ўскладаліся на зямельную рэформу на тэрыторыі, што належала СССР да 17.9.1939 г. У дэкрэце Розэнбэрга ад 15.2.1942 г. на гэты конт прадугледжвалася ператварыць калгасы ў супольныя гаспадаркі, а пазьней падзяліць зямлю і інвэнтар і стварыць індывідуальныя гаспадаркі, якія аб'ядноўваліся б у т.зв. сялянскія кааперáтывы. Гэтая кампанія была разьлічана ня толькі на рост прадукцыйнасьці працы і харчовых паставаў, але і на здабыцьцё прыхільнасьці сялянства і таму мела важнае палітычнае значэньне. Аднак супраціў Коха прывёў да таго, што на Ўкраіне да канца 1942 г. пад рэформу падпала толькі 10% калгасаў[89]. Значна лепшыя вынікі былі дасягнутыя на Беларусі (гл. далей). Ня мелі істотнага значэньня і дэкрэты Розэнбэрга наконт самакіраваньня ў прыбалтыйскіх краінах: фактычна яны ўзаконілі сытуацыю, якая ўжо існавала зь лета 1941 г.

Такія захады, па сутнасьці — паўзахады, не прывялі да жаданых вынікаў і не аказалі аніякага ўплыву на разьвіцьцё партызанскага руху, асабліва на Беларусі. Здаецца, што толькі восеньню 1942 г. Розэнбэрг зразумеў бескарыснасьць гэтых уяўных саступак і пачаў дзейнічаць ужо не ў кірунку зьмены тактыкі, а палітычнай стратэгіі ўсходняй кампаніі. У верасьні 1942 г. ён выступіў на старонках "Фёлькішэр Бэобахтэр" зь сьмелым пастулятам: "...самы час на тое, каб уся гэтая праблема прызначэньня (усходніх народаў. — *Ю.Т.*) знайшла зразуменьне ўва ўсіх, хто хоць у нейкай ступені нясе адказнасьць у краінах на акупаванай тэрыторыі"[90]. Ясна, што гэтае патрабаваньне датычыла ня толькі райхскамісараў на ўсходзе, асабліва Коха, але і мясцовых паліцыйных і вайсковых уладаў, а таксама найвышэйшых дзяржаўных установаў.

У гэтай новай сытуацыі 25.10.1942 г. Бройтыгам, кіраўнік палітычнага аддзелу ў міністэрстве Розэнбэрга, падаў вялікі мэмарыял, у якім пацьвердзіў, што захады, разьлічаныя на тое, каб выклікаць прыхільнасьць насельніцтва ўсходніх земляў (зямельная рэформа і інш.), не далі вынікаў і не загладзілі ў людзкой сьвядомасьці такіх злачынстваў, як вынішчэньне соцень тысяч савецкіх ваеннапалонных, альбо такіх мэтадаў вэрбоўкі на працу ў Нямеччыну, якія больш "нагадвалі паляваньне на людзей у найчарнейшыя часы гандлю нявольнікамі". Таму, — працягваў Бройтыгам, — лёзунг "вызваленьня ад бальшавізму" стаў у вачох тутэйшага жыхарства проста шырмай, за якой занадта яскрава прасьвечваўся намер немцаў накінуць яму на шыю ярмо. Ад гэтага ўзрос супраціў Чырвонай Арміі і мясцовага насельніцтва. Вынікі гэтага працэсу для райху Бройтыгам акрэсьліў вельмі трапна. Ён прызнаў банкруцтва ранейшай нямецкай

[86] Інструкцыя RMfdbO ад 17.3.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/132.
[87] Інструкцыя RMfdbO ад 9.4.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/093.
[88] Інструкцыя RMfdbO ад 26.3.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/068.
[89] Geheime Aufzeichnung von Bräutigam über die dreifache Zielsetzung des Ostfeldzuges, 25.10.1942 // IMGN // Bd. XXV, 294–PS, S. 336.
[90] Rosenberg A. Über die Schicksalsaufgabe der europäischen Völker // Völkischer Beobachter. 6.9.1942.

усходняй палітыкі і "ў гэтую апошнюю хвіліну" патрабаваў яе зьмяніць, прычым дамагаўся ня толькі гуманнага абыходжаньня з насельніцтвам, але і прапановы канкрэтнай пазытыўнай палітычнай праграмы жыхарам гэтых земляў[91]. Дадам, што гэты мэмарыял быў сфармуляваны ў той момант, калі сьцяг з свастыкай лунаў над Эльбрусам, а нямецкія войскі дайшлі да Волгі.

Згодна з прапановамі, высунутымі ў мэмарыяле Бройтыгама, неўзабаве была зроблена сур'ёзная спроба зьмяніць напрамак нямецкай усходняй палітыкі. Такое рашэньне прысьпешвалі падзеі на фронце — у лістападзе Чырвоная Армія перайшла ў контранаступ і абкружыла войскі фэльдмаршала Паўлюса. З ініцыятывы Розэнбэрга 18.12.1942 г. у міністэрстве акупаваных усходніх земляў адбылася палітычная нарада, у якой разам з вышэйшымі чынамі (Розэнбэрг, Мэер, Ляйбрант, Бройтыгам, Кляйст, Мэндэ і інш.) удзельнічалі зацікаўленыя военачальнікі Вэрмахту, між іншым — камандзір тылу групы армій "Цэнтар" генэрал фон Шэнкендорф.

На нарадзе прадстаўнікі Вэрмахту адзначылі пагаршэньне настрояў насельніцтва і рост партызанскага руху. На іх думку, гэта было вынікам харчовага крызісу, кепскага абыходжаньня зь людзьмі, забароны і абмежаваньняў у галіне асьветы і культуры і — самае галоўнае — адсутнасьці пазытыўнай палітычнай праграмы. Пры гэтым былі сказаны сымбалічныя словы: "Расею змогуць перамагчы толькі расейцы". А ў сувязі з тым абавязковай умовай посьпеху ў такой вайне быў прызнаны ўдзел насельніцтва ў барацьбе на баку Нямеччыны. Таму гаворка вялася ня толькі пра саступкі ў гаспадарчай і культурна–асьветнай галіне, але ў першую чаргу пра тое, каб абазначыць палітычную мэту, якая ствярала б падставы і надавала сэнс супрацоўніцтву мясцовага насельніцтва з акупантамі. Цікава, што яшчэ ў сьнежні 1942 г. генэралы лічылі, што "няма ніякага сумненьня наконт яго гатоўнасьці да барацьбы з саветамі ў партызанскай вайне або на фронце з умоваю, што ўдасца пераканаць яго ў поўнай адмове (з нашага боку) ад ранейшых мэтадаў"[92].

Гэтыя праблемы былі выразна акрэсьленыя ўва ўнутраным дадатковым пратаколе згаданай нарады і на дадатковых перамовах Розэнбэрга з генэраламі фон Рокам і Шэнкендорфам — прадстаўнікамі групаў армій "Поўнач" і "Цэнтар", а таксама з палкоўнікам Гільгаўзэнам з вайсковай зоны "В". Гэтая апошняя сустрэча адбылася 22.12.1942 г., у яе дакумэнтах значылася наступнае:

— Сумесны ўдзел насельніцтва і ваеннапалонных у вайсковых дзеяньнях — гэта катэгарычнае патрабаваньне арміі, яго выкананьне будзе мець вырашальнае значэньне для перамогі;
— Для рэалізацыі загаду фюрэра аб мабілізацыі больш за паўмільёна расейцаў, украінцаў і інш. у якасьці добраахвотных памочнікаў для войска неабходна прыняць адпаведныя палітычныя захады, якія мелі б беспасярэдні дадатны вынік;
— Для гэтага абшару прымальны толькі адзін лёзунг: яго народы — нашы саюзьнікі па барацьбе з саветамі, і трэба спагадліва дазволіць ім весьці ўласнае жыцьцё з усімі неабходнымі гаспадарчымі і палітычнымі вынікамі[93].

На пачатку лютага 1943 г. Розэнбэрг растлумачыў Гітлеру свае ідэі, ужо падтрыманыя Вэрмахтам і бэрлінскімі палітычнымі коламі. У прыватнасьці, ён прапанаваў ліквідаваць райхскамісарыят Остлянд, а замест яго ўтварыць у Літве, Латвіі і Эстоніі ўласныя ўрады і адміністрацыю. Беларусь як самастойная адміністрацыйная адзінка павінна была беспа-

[91] Geheime Aufzeichnung von Bräutigam...
[92] Protokoll der Besprechung des RMfdbO mit den Befehlshabern der Heeresgebiete vom 18.12.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 124/2599567.
[93] Interner Zusatzprotokoll zu dem Protokoll der Sitzung mit den Befehlshabern der Heeresgebiete vom 18.12.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 90/728.

сярэдне падпарадкавацца ОМі. На землях, якія да 17.9.1939 г. уваходзілі ў склад СССР, Розэнбэрг меркаваў арганізаваць нацыянальныя прадстаўніцтвы (камітэты), якія зь цягам часу маглі б пераняць на сябе функцыі самакіраваньня[94]. Пад беспасярэднім уражаньнем сталінградзкага разгрому, адступленьня з Каўказу і іншых паўднёвых тэрыторый СССР, росту партызанскага руху ў франтавых тылах Гітлер ня стаў прынцыпова пярэчыць прапановам Розэнбэрга і даручыў яму іх канкрэтную распрацоўку. У гэты час ён быў гатовы пагадзіцца на абмежаваную палітычную аўтаномію прыбалтыйскіх краін, а таксама на пэўнае палітычнае супрацоўніцтва і далейшыя гаспадарчыя саступкі на ўсходзе[95].

Гэта неабходна было зрабіць таксама ў сувязі з крытыкай, якая ўсё часьцей і гучней лілася ў адрас нямецкай усходняй палітыкі і нараджалася нават там, дзе менш за ўсё можна было яе чакаць, а менавіта — у кіраўнічых колах СС. 9.3.1943 г. Готлаб Бэргер, шэф Галоўнай управе СС, пісаў Гімлеру:

> На маю думку, безумоўнай памылкаю як у Остляндзе, так і на Ўкраіне, было тое, што мы накінуліся на гэтыя народы, быццам галодныя і ўбогія жабракі. Было б цалкам дастаткова, каб мы адразу прызналі права на дробную і сярэднюю ўласнасьць, а пазьней, спраўдзіўшы вынікі, — і на буйную, і пры гэтым пазьбеглі б цяперашняй абыякавасьці і нават варожасьці народаў, якія некалі віталі нас як сваіх вызваліцеляў[96].

Бэргер пацэліў трапна — ён выкрыў самую сутнасьць гімлераўскай палітыкі анямечваньня, якая грунтавалася на засяленьні часткі акупаваных усходніх земляў асаднікамі — кроўнымі немцамі. Тут варта далучыць яшчэ адзін факт: у пачатку 1943 г. Гітлер выдаў дэкрэт, у якім было загадана цалкам адмовіцца ад падрыхтоўкі і плянаваньня "будучых мірных задач"[97], асабліва — плянаў нямецкай калянізацыі на ўсходзе. У выніку, чарговы варыянт ГПО, распрацаваны Гетлінгам, аказаўся непатрэбным[98].

Нямецкая прапаганда таксама загучала інакш. Згодна з дырэктывамі Гітлера, 15.2.1943 г. Гёбэльс накіраваў для ўсіх райхсьляйтэраў, гаўляйтэраў і прапагандысцкіх кіраўнікоў інструкцыю, дзе зазначалася, што ўсе краіны Эўропы, у тым ліку і ўсходнія, якія судзеялі перамозе Нямеччыны, павінны адчуваць у гэтым сваю зацікаўленасьць, таму забаранялася ў прамовах і ў друку гаварыць пра калянізацыю і эксплюатацыю ўсходніх тэрыторый і рэкамэндавалася замест гэтага вылучаць на першы плян пэрспэктывы іх адраджэньня пад нямецкім кіраўніцтвам[99].

Так, пад уплывам пагаршэньня ваеннага становішча Нямеччыны, а таксама пад націскам Розэнбэрга, Вэрмахту і іншых фактараў Гітлер вясною 1943 г. згадзіўся на пэўныя зьмены ўва ўсходняй палітыцы. "Новы курс", які так старанна пачала эксплюатаваць нямецкая прапаганда, выявіўся перш за ўсё ў тым, што пад наглядам СС было дазволена ствараць нацыянальныя вайсковыя часьці на Ўкраіне (дывізія СС–Галіччына) і ў Літве і павялічыць ужо існыя ў Эстоніі і Латвіі. Тым ня менш Гітлер па–ранейшаму ня вельмі давяраў войскам *Osttruppen*, перш за ўсё з прычыны частага дэзэртэрства ў іх шэрагах.

Пасьля некаторых ваганьняў што да палітычнага супрацоўніцтва з усходнімі народамі Гітлер вярнуўся на ранейшую, цьвёрдую пазыцыю. Магчыма, гэта адбывалася ад-

[94] Мэмарыял Кёрнэра да Гёрынга ад 20.2.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 89/446.

[95] Madajczyk. T. I. S. 539.

[96] Ліст Бэргера да Гімлера, 9.3.1943 // Reichsführer... Briefe an und von Himmler, München, 1970. S. 247.

[97] Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. 1958. Heft 3. S. 292.

[98] Новы варыянт ГПО быў перасланы Гімлеру 15.2.1943 г. Гімлер доўга не выказваў сваіх меркаваньняў наконт праекту, і таму Мэер–Гетлінг зьвярнуўся да яго з дадатковым запытаньнем у гэтай справе. У красавіку 1943 г. ён атрымаў наступны адказ Гімлера: "Так, я прыпамінаю сабе. Ён ляжыць на маім стале. Я ўжо мысьлю аб гэтай справе" // Vierteljahrschefte für Zeitgeschichte. 1960. Heft 1. S. 119.

[99] Reichspropagandaleiter der NSDAP, Behandlung der europäischen Völker, 15.2.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 98/298.

начасова з ростам яго самаўпэўненасьці — акурат у той самы час фюрэр рыхтаваў новае наступленьне пад Курскам, што было, бадай, апошнім шанцам на перамогу Нямеччыны. Гітлер адхіліў ідэю стварэньня палітычных прадстаўніцтваў акупаваных народаў і арганізацыі пад іх наглядам нацыянальных вайсковых фармаваньняў. Сваю пазыцыю ў гэтым пытаньні ён сфармуляваў так:

> Я не магу вызначаць пэрспэктыўных мэтаў, якія прадугледжваюць стварэньне незалежных ці аўтаномных дзяржаў. Дастаткова пачаць з так званай, я б сказаў, далучанай дзяржавы, а–ля Польшча, і скончыць дзяржавай незалежнай[100].

З гэтага выказваньня можна зразумець, што і летам 1943 г. Гітлер вагаўся наконт будучага палітычна–адміністрацыйнага статусу акупаваных усходніх народаў, ён згадваў нават аб іх незалежнасьці. Магчыма, пасьля ўсё яшчэ спадзяванай перамогі ён дапускаў варыянт пэўных дзяржаўных утварэньняў, залежных ад Нямеччыны, але вызначаць іх форму, ролю і значэньне ў "Новай Эўропе" яму хацелася цалкам самастойна як пераможцу, які ў сваіх рашэньнях ня мусіць прытрымлівацца ранейшых дэклярацыяў і абавязаньняў, дадзеных пад націскам часовых (на яго думку) ваенных няўдач. Ён жадаў аднабаковага даверу.

У нямецкай усходняй палітыцы Беларусь займала своеасаблівую пазыцыю — яе часам называлі "спэцыяльнай" (*Sonderstellung*). Прычын тут было некалькі. Па–першае, цывільная адміністрацыя не магла пераняць уладу на яе ўсходніх землях. Па–другое, партызанскі рух там так разросься, што перашкаджаў гаспадарчай эксплюатацыі і іншым захадам акупацыйных уладаў. І, нарэшце, па–трэцяе, на гэтай зямлі скlаліся спэцыфічныя ўнутраныя абставіны: беларусы прымалі слабы ўдзел у арганізацыі "новага парадку"; у адрозьненьне ад Украіны і Прыбалтыкі тут было цяжка стварыць паліцыйныя батальёны і сапраўды нацыянальную адміністрацыю — немцы з большай ахвотай называлі яе "einheimische" (тутэйшая), чым "weissruthenische" (беларуская). Пры такой сытуацыі Беларусь чыніла немцам шмат гаспадарчых і адміністрацыйных клопатаў і, апрача таго, выклікала вялікія сумненьні наконт яе палітычнай будучыні. На думку бэрлінскіх палітыкаў, вырашэньне беларускага пытаньня, пра якое ў лістападзе 1941 г. згадваў "Deutsche Post aus dem Osten", на парозе 1943 г. мела ня большыя пэрспэктывы, чым на пачатку акупацыі.

Тым часам у ведамстве Гімлера таксама аслабла зацікаўленасьць у беларускім пытаньні. Відаць, у гэтым адыгралі сваю ролю шматмесячныя назіраньні паліцыі, а таксама няўдалыя спробы па беларусізацыі мясцовай адміністрацыі. У немалой ступені тут праявілася і асабістая непрыязнасьць Гімлера да Кубэ, які сваім умяшальніцтвам нарабіў нямала шкоды "добраму імю" СС. Таму ў студзені 1943 г., у час нарады ў ОМі, прадстаўнік Галоўнай управы бясьпекі штурмбанфюрэр СС Гуміч выказаў сумненьне,

> ці варта ўвогуле імкнуцца і ўжо цяпер падтрымліваць станаўленьне беларускай нацыі, бо няма яшчэ рашэньня аб тым, што рабіць увогуле зь беларускай нацыяй. Ува ўсякім разе райхсфюрэр СС яшчэ ня мае яснасьці ў гэтай справе[101].

Розэнбэрг і яго супрацоўнікі таксама скептычна ставіліся да беларускага пытаньня. Праўда, 30.5.1942 г. у часе свайго візыту ў Менск ён запэўніваў, што нямецкае кіраўніцтва гатова падтрымаць намаганьні, накіраваныя на такое разьвіцьцё Беларусі, "каб яна стала назаўсёды моцнай і квітнеючай краінай — фарпостам нямецкага райху", але гэтае выказваньне было разьлічана хутчэй за ўсё на прапагандысцкі эфэкт. На самай справе Розэнбэрг ня верыў у магчымасьць актывізаваць беларускі нацыяналізм. У сакавіку 1942 яго сувязны афіцэр пры стаўцы Гітлера, доктар Копэн, лічыў, што "белару-

[100] Madajczyk. T. I. S. 599.
[101] Пратакол канфэрэнцыі ў ОМі ад 8.1.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/1059.

сы — настолькі прымітыўныя, што прыдатныя толькі на тое, каб араць зямлю і гадаваць быдла"[102]. У колах ОМі Беларусь называлі "нацыянальным кактэйлем" або "папялушкай райхскамісарыяту Остлянд"[103].

Практычныя захады толькі пацьвярджалі, што ОМі ставіцца да Беларусі як да другараднай тэрыторыі ў складзе Остлянду. У прыватнасьці, пра гэта сьведчыла далейшае зьмяншэньне абшару генэральнай акругі Беларусі, якое міністэрства акупаваных усходніх земляў праводзіла ня толькі без паразуменьня з Кубэ, але нават і безь яго ведама. У студзені 1942 г. на карысьць райхскамісарыяту Ўкраіны адыйшоў Бярозаўскі раён. У красавіку даволі значныя беларускія тэрыторыі былі далучаны да Літвы, пры гэтым нацыянальны склад насельніцтва толькі ў невялікай ступені мог апраўдваць такі крок. Куды большую ролю тут адыграла жаданьне ўзнагародзіць літоўцаў за стварэньне шматлікіх паліцыйных батальёнаў, якія дзейнічалі таксама і на Беларусі.

На Беларусі існавалі вялікія абмежаваньні ў выдавецкай і журналісцкай дзейнасьці. У траўні 1942 г. на тэрыторыі генэральнай акругі выходзілі толькі 4 беларускія часопісы, тады як у Літве — 11, Латвіі — 21, Эстоніі — 14[104]. Больш суровыя ў параўнаньні з Прыбалтыкай абмежаваньні захоўваліся і ў галіне народнай асьветы. Аднак найважнейшым сярод усяго было прыняцьце ў канцы сакавіка 1942 г. пункту, які забараняў стварэньне цэнтральнага беларускага органа самакіраваньня[105]. Розэнбэрг растлумачыў, што "ў выніку 23–гадовага панаваньня бальшавікоў насельніцтва Беларусі да такой ступені аказалася заражана бальшавіцкім сьветапоглядам, што для стварэньня мясцовага самакіраваньня не стае арганізацыйных і пэрсанальных перадумоў"[106]. Ён не прымаў пад увагу, што $^4/_5$ падпарадкаванага яго кампэтэнцыі беларускага абшару займалі раёны, дзе савецкая ўлада дзейнічала толькі 20 месяцаў. Гэта была папросту яшчэ адна праява недаверу да беларусаў, якім Розэнбэрг па сутнасьці няшмат мог абяцаць. Пра гэта можа сьведчыць наступны факт: у паперах ОМі захаваліся праекты адозваў да народаў усходу, якія Розэнбэрг паклаў Гітлеру на разгляд у студзені 1943 г. (фюрэрам яны не былі прынятыя). Сярод гэтых праектаў былі адозвы да расейцаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў і народаў Каўказу, затое аніякай — да беларусаў[107].

## Мэтады акупацыі на Беларусі

### Стаўка Кубэ на беларускі нацыяналізм

Розэнбэрг іначай ставіўся да Беларусі, чым да Ўкраіны — апошняй ён аддаваў перавагу. Затое падначаленыя Розэнбэрга — камісары Кох і Кубэ — не падзялялі сымпатыяў свайго шэфа і прытрымліваліся цалкам супрацьлеглых поглядаў. Сытуацыя выглядала парадаксальна. Кох, напрыклад, абмяжоўваўся амаль толькі голай эканамічнай эксплюатацыяй сваёй тэрыторыі і ўпарта адмаўляўся выконваць інструкцыі ОМі ў галіне школьніцтва і культурнага жыцьця. Між іншым, ён заваліў праект Розэнбэрга па адкрыцьці ўкраінскага ўнівэрсытэту ў Кіеве. Ён поўнасьцю ігнараваў сымпатыі і інтарэсы насельніцт-

---

[102] Picker H. Hitlers Tischgespräche im Führerhauptquartier 1941—1942. Bonn, 1951. S. 64.

[103] Мэмарыял ОМі: Der Einbau der ehemaligen Baltischen Staaten in das neue Europa, 6.1.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 15/127; Kleist P. Zwischen Hitler und Stalin 1939—1945. Bonn, 1950. S. 170.

[104] Інфармацыя ОМі аб стане прэсы на усходзе на 1.5.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 237/2726095.

[105] Дэкрэт Розэнбэрга ад 7.3.1942 аб адміністрацыі РКО // Amtsblatt RMfdbO. Sammelnumer. Dezember. 1943. S. 11.

[106] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 90.

[107] Праекты адозваў... AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 45/EAP 99/214.

ва ў сваіх палітычных захадах. У адказ паўстала ўкраінская нацыянальная апазыцыя, а ўвосень 1942 г. зьявілася падпольная Украінская паўстанская армія. Затое Кубэ дзейнічаў наадварот, ён імкнуўся дабіцца падтрымкі беларусаў і часта браў на сябе адказнасьць, парушаючы інструкцыі ОМі. Гэта прыводзіла да канфліктаў з Розэнбэргам[108].

На пачатку 1942 г. Кубэ рашуча падтрымаў зямельную рэформу, у адрозьненьне ад Коха ён палічыў яе за вельмі важны сродак для здабыцьця прыхільнасьці і гаспадарчай актывізацыі беларускага сялянства. У выніку, вясною 1942 г. усе калгасы былі распарцэляваны, а іх зямля і інвэнтар перайшлі ў сямейны ўжытак сялян у рамках т.зв. зямельных каапэратываў[109]. Такім чынам, Кубэ пайшоў далей за інструкцыі Розэнбэрга: паводле міністэрскага дэкрэту, у першай фазе рэформы калгасы павінны былі ператварыцца ў супольныя гаспадаркі, а іх парцэляцыя павінна была пачацца толькі на другім этапе.

Адначасова Кубэ распачаў беларусізацыю царкоўнага жыцьця. Ён імкнуўся да стварэньня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай нацыянальнай царквы, незалежнай ад расейскіх уплываў[110]. Вясною 1942 г. ён узаконіў дзейнасьць беларускага экзархату Грэка–каталіцкай царквы, які існаваў падпольна з таго моманту, як яго стварыў мітрапаліт Шаптыцкі (кастрычнік 1939 г.)[111]. Падтрымаў Кубэ і пачынальнікаў паступовай беларусізацыі Рыма–каталіцкай царквы[112].

Гэтым бадай што і абмяжоўваліся захады Кубэ, скіраваныя ў першай палове 1942 г. на здабыцьцё прыхільнасьці сярод насельніцтва. Асабліва вялікі супраціў Розэнбэрга выклікалі спробы па стварэньні ў Менску цэнтральнага органа беларускага самакіраваньня. Усе адміністрацыйна–гаспадарчыя заданьні павінны былі выконваць нямецкія чыноўнікі. Беларускія дзяячы балесна ўспрынялі забарону на стварэньне ўласнага кіраўнічага органа. Яны палічылі гэта за ігнараваньне справы беларускай дзяржаўнасьці. Кубэ спрабаваў загладзіць гэтае ўражаньне з дапамогай уласных ініцыятыў: ён меў паўнамоцтвы на тое, каб прыстасоўваць прысланыя зьверху дырэктывы да мясцовых спэцыфічных умоў[113]. На практыцы гэта давала яму немалую свабоду дзеяньня. У сваю чаргу гэткія самыя правамоцтвы ён перадаў сваім падначаленым — акруговым камісарам. Адной з найважнейшых ініцыятыў Кубэ ў гэтай галіне было стварэньне т.зв. мяшанай адміністрацыі, што азначала спалучэньне нямецкай кіраўнічай улады і беларускай выканаўчай у акруговых і генэральным камісарыятах. Такая сыстэма давала магчымасьць беларускім, а часам і польскім службоўцам прымаць удзел у працы гэтых устаноў. З другога боку, гэта часта ўскладняла дзейнасьць органаў мясцовай адміністрацыі.

Улетку 1942 г. становішча на Беларусі карэнным чынам зьмянілася. З аднаго боку, гэта было зьвязана з актывізацыяй савецкага партызанскага руху, а з другога — Галоўная ўправа бясьпекі райху акурат тады ў надзеі вырашыць польскае пытаньне распачало т.зв. “польскую кампанію”[114]. І хаця галоўнай прычынай гэтай акцыі былі антынямецкія ўзброеныя выступленьні польскага падпольля ў Остляндзе і на Украіне і яго супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі[115], удар быў скіраваны ўвогуле супраць палякаў, і ў

[108] Reitlinger G. The House Built on Sand. The Conflicts of German Policy in Russia 1939—1945. London, 1960. P. 157.

[109] Reichsminister Rosenberg über die Arbeit in den befreiten Ostgebieten // Völkischer Beobachter. 14.6.1942. № 165; Erfahrungs–, Räumungs– und Abschlussbericht für das Generalkommissariat Weissruthenien, 31.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 59/2574952; Факторович. С. 69.

[110] А[панас] М[артос]. Матэрыялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы. Нямеччына, 1948. С. 48 і далей.

[111] Раніца. 1942. 17 траўня.

[112] Раніца. 1942. 11 кастрычніка.

[113] Bengtsson H. Das unbekannteste Volk Europas // Preussische Zeitung. August. 1942. № 237.

[114] Erfahrungs–, Räumungs– und Abschlussbericht für das Generalkommissariat Weissruthenien, 31.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 59/2574951.

першую чаргу — супраць інтэлігенцыі. Арышты, расстрэлы і вываз на працу ў Нямеччыну закранулі таксама і польскае насельніцтва на Беларусі. Паводле ацэнкі намесьніка генэральнага камісара Беларусі, гэтая кампанія набыла “катастрафічнае” разьвіцьцё, многіх палякаў яна прымусіла пакінуць ранейшыя месцы працы і шукаць прытулку ў партызанаў[116].

Савецкі партызанскі рух набываў пагрозьлівыя памеры. Вынішчэньне польскай інтэлігенцыі спустошыла адміністрацыю. На фоне такіх падзеяў Кубэ вырашыў актывізаваць сілы беларускага нацыяналізму. Яго ранейшая палітыка, хоць і непараўнальна адрозьнівалася ад украінскай сытуацыі, дзе зь мясцовым нацыянальным рухам вялася зацятая барацьба, да гэтага часу ўсё ж ня вельмі заахвочвала беларусаў да супрацоўніцтва. Адозва Кубэ “Да жыхароў Беларусі!”, апублікаваная ў верасьні 1941 г., у якой дэкляравалася свабоднае разьвіцьцё краю, толькі кампрамэтавала ў вачох грамадзтва яе аўтара, бо, нягледзячы на ўплыў часу, рэальныя дзеяньні акупацыйных уладаў аніяк не пацьвердзілі дадзеных абяцаньняў. Таму Кубэ разумеў, што без дадатковых палітычных саступак ён ня зможа дабіцца падтрымкі беларускага нацыяналізму. Аднак дырэктывы бэрлінскага кіраўніцтва фармальна не давалі на гэта падстаў. Таму ён павёў гульню вельмі асьцярожна, верагодна, загадзя паразумеўшыся зь Лёзэ.

Арганізацыйнай апорай у ажыцьцяўленьні намераў Кубэ павінна была стаць БНС — зрэшты, адзіная, калі не лічыць рэлігійных суполак, легальная грамадзкая арганізацыя на Беларусі. Зь цягам часу гэтая арганізацыя здолела стварыць свой мясцовы апарат: акруговыя і раённыя аддзяленьні і валасныя гурткі. І хаця статутнай мэтай БНС лічылася толькі сацыяльнае забесьпячэньне і ахова здароўя, тым ня менш Кубэ пагадзіўся на яе ўдзел у арганізацыі школьніцтва і культурнай дзейнасьці, між іншым, на адкрыцьцё дамоў культуры, чытальняў і бібліятэк, стварэньне аматарскіх драматычных гурткоў, курсаў, лекцыяў, распаўсюджаньне друкаваных выданьняў і г.д. Паступова дзейнасьць БНС пачала змыкацца з адміністрацыйным апаратам, у выніку ўдзельнікам гэтай арганізацыі сталі даручаць розныя службовыя абавязкі — пачынаючы з валасных упраў аж да генэральнага камісарыяту ўлучна. Тэндэнцыі да стварэньня Галоўнай рады БНС, паводле задумы — цэнтральнага кіраўнічага беларускага органа, таксама выявіліся даволі рана. Гэтая рада была абрана 26.1.1942 г., але Кубэ да пары пакінуў яе незацьверджанай[117].

Неўзабаве становішча БНС істотна зьмянілася. 29 чэрвеня Кубэ “дзеля забесьпячэньня плённага ўдзелу беларусаў у кіраваньні краем” надаў Ермачэнку, шэфу БНС, званьне дарадчыка і мужа даверу “беларускага народу, прадстаўніком якога ёсьць БНС”. Ён абвясьціў, што прызаве яшчэ трох мужоў даверу на службу ў генэральным камісарыяце і па адным — на кожны акруговы камісарыят. Адначасова Кубэ абвясьціў стварэньне беларускага т.зв. Вольнага корпусу самааховы. Дзеячам БНС даручалася выдаць адозву да беларусаў з заклікам добраахвотна ўлівацца ў яе шэрагі[118]. Праз два–тры тыдні на Беларусі быў створаны інстытут мужоў даверу пры органах акупацыйнай улады. У яго склад увайшлі[119]:

**Генэральны камісарыят**

---

[115] Teilnahme der polnischen Widerstandsbewegung am Partisanenkampf // Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 235/2724561.

[116] Erfahrungs–, Räumungs– und Abschlussbericht.., 31.8.1944.

[117] Раніца. 1942. 15 сакавіка. Імя Астроўскага значылася ў сьпісе Рады (у якасьці намесьніка аднаго з чальцоў), але Кубэ і Ермачэнка не маглі з гэтым пагадзіцца. Гэта была не адзіная прычына таго, што Раду не зацьвердзілі. Магчыма, у студзені 1942 г. Кубэ лічыў, што для гэтага яшчэ не прыйшла пара.

[118] Беларуская Газэта. 1942. 8 ліпеня; Раніца. 1942. 26 ліпеня.

[119] Беларуская Газэта. 1942. 12 ліпеня; Раніца. 1942. 18 ліпеня; 1942. 16 жніўня; Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах... С. 88.

| | |
|---|---|
| аддзелы: | |
| — палітыкі | — Іван Ермачэнка |
| — школьніцтва | — Яўхім Скурат |
| — культуры | — Іван Касяк |
| — прэсы і прапаганды | — Антон Адамовіч |
| **Акруговыя камісарыяты** | |
| Менск (акруга) | — Юліян Саковіч |
| Баранавічы | — Юры Сабалеўскі |
| Наваградак | — Барыс Рагуля |
| Ліда | — Рыгор Зыбайла |
| Слонім | — Аляксандар Сівец |
| Ганцавічы | — [Антон] Сокал–Кутылоўскі |
| Вялейка | — Аляксандар Калодка |
| Барысаў | — Станіслаў Станкевіч |
| Глыбокае | — ? |
| Слуцак | — ? |

У новай сытуацыі Кубэ дазволіў стварыць у ліпені 1942 г. 12–асабовую Галоўную раду БНС на чале зь Ермачэнкам[120]. Да таго ж у кожнай акрузе былі створаны 10–асабовыя акруговыя рады БНС. Пры Галоўнай радзе быў арганізаваны шэраг ведамасных аддзелаў: палітычны, вайсковы, школьны, культурны, а таксама прапаганды і аховы здароўя — усе яны мелі адпаведнікі ў акруговых Радах. Такім чынам, на Беларусі быў створаны цэлы апарат, які ў адпаведным часе змог бы пераняць зь нямецкіх рук кіраўніцтва. А Кубэ рабіў усё новыя і новыя саступкі. Было арганізавана Беларускае навуковае таварыства, прафсаюзы, Жаночая ліга, беларускае судаводзтва. Выдадзены дазвол на ўжываньне нацыянальных сымбаляў — беларускіх штандараў і гербу Пагоні. Арганізаваны Цэнтральны каапэратыўны саюз, які падпарадкоўваўся БНС[121]. У верасьні выйшла ў сьвет распараджэньне Кубэ аб зьмене адміністрацыйнай тэрміналёгіі. У адпаведнасьці зь ім, раёны пераймёнавалі ў паветы, а бурмістры (раённыя, валасныя) атрымалі тытулы начальнікаў паветаў, воласьцяў, гарадоў, вёсак і г.д. У жніўні Генэральны камісарыят дазволіў адкрыцьцё гімназій. Вяліся перамовы наконт адкрыцьця ўнівэрсытэту ў Менску[122].

Кубэ надаваў вялікае значэньне прапагандзе прынцыпаў сваёй палітыкі ў беларускім і нямецкім друку. Таму ён запрашаў зь Нямеччыны ў Менск шматлікіх журналістаў, сачыў, каб адпаведныя карэспандэнцыі і інтэрвію своечасова траплялі на старонкі газэт[123]. Гэтыя яго прынцыпы можна рэзюмаваць наступна: ува ўмовах, свабодных ад польскага і расейскага палітычнага дамінаваньня, якія стварыла нямецкая акупацыя, беларускі народ займеў шанец за кароткі гістарычны пэрыяд запоўніць прагалы ў

[120] У склад Галоўнай рады БНС уваходзілі: старшыня — І. Ермачэнка, сябры: А. Адамовіч, кс. В. Гадлеўскі, Грынкевіч, С. Кандыбовіч, В. Казлоўскі, архіяпіскап Нарко, Нікалаевіч, Я. Найдзюк, Ю. Саковіч, Сянкевіч, П. Сьвірыд // Раніца. 1942. 6 верасьня.

[121] Раніца. 1942. 12 жніўня; 1942. 23 жніўня; 1942. 6 верасьня. Bräutigam O. Überblick über die besetzten Ostgebiete während des 2 Weltkrieges. Tübingen, 1954. S. 64.

[122] Беларуская Газэта. 1942. 13 жніўня; мэмарыял д–ра Крафта, кіраўніка *Einsatzstab Reichsleiter Rosenberg* у Менску, ад 12.12.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/1293.

[123] Улетку і ўвосень 1942 г. у нямецкім друку было апублікавана багата артыкулаў, прысьвечаных Беларусі. Частка зь іх была перадрукавана ў выдадзеным РКО зборніку “Auf Informationsfahrt im Ostland”, Riga, 1944. Гл. таксама: “Berliner Börsenzeitung” (22.7.1942), “Das Reich” (28.6.1942), “Preussische Zeitung” (1942, № 237), “Deutsche Post aus dem Osten” (Juli — August 1942), “Völkischer Beobachter” (19.7.1942), “Deutsche Zeitung im Ostland”, “Ostland” (Riga), “Minsker Zeitung”, “Nation und Staat” (Oktober 1942) і інш.

разьвіцьці нацыянальнай самасьвядомасьці. Дзейнасьць акупацыйнай адміністрацыі ў галіне палітыкі скіравана на тое, каб паскорыць гэты працэс, перамагчы чужацкія ідэалягічныя наносы і ўзмацніць уласна беларускі нацыянальны элемэнт. Гэтай мэце павінны былі паслужыць разьвіцьцё школьніцтва, культуры, праца сярод моладзі. Новы шлях разьвіцьця зможа прывесьці Беларусь да эўрапейскай супольнасьці дзяржаў і нацыяў. Генэральная акруга Беларусь, — сьцьвярджаў далей Кубэ, — павінна ня толькі выконваць адміністрацыйныя заданьні, прадыктаваныя ваеннай неабходнасьцю, ёй "наканавана стаць Бацькаўшчынай для беларускай нацыі". Таму беларуская нацыя "ў пэўнай ступені дзяржаўная нацыя"[124]. Не выпадкова праз год шэф СД у Менску Эдуард Штраўх абвінаваціў Кубэ ў тым, што ён сьвядома падтрымліваў курс на стварэньне беларускай дзяржавы зь Ермачэнкам як яе прэм'ерам[125].

У атмасфэры эўфарыі, выкліканай саступкамі Кубэ, пад канец ліпеня 1942 г. у Менску адбыўся чатырохдзённы зьезд акруговых і раённых кіраўнікоў БНС. На ім адзначалася, што за кароткі час БНС зьмяніла характар сваёй дзейнасьці і зь першапачатковай сьціплай дабрачыннай арганізацыі ператварылася ў агульнакраёвую ўстанову, якая зграмадзіла ў сваіх руках школьніцтва, культурную дзейнасьць, прапаганду, палітыку, справы самаахове і перайшла да кіраваньня гаспадарчым жыцьцём, адраджэньня краю і т.п. "Як відаць з гэтага, — сьцьвярджалася ў справаздачы зьезду, — БНС сталася цэнтрам пачынаньняў усяго беларускага жыцьця, і яна ж стаецца яго галоўным кіраўнічым штабам". Таму зьезд патрабаваў зьмяніць статут БНС і дабіцца фармальнага прызнаньня яе самаўрадавых паўнамоцтваў. У сваёй заключнай прамове Ермачэнка так акрэсьліў матывы ўсіх гэтых пачынаньняў:

> Гэтае натхненьне і ўздым сьведчаць аб тым, што беларуская нацыя выяўляе сваю волю да самастойнага жыцьця і поўнага адраджэньня свайго краю ды пераможа ўсе перашкоды, якія стаяць на дарозе да рэалізацыі гэтае мэты[126].

Найважнейшым, хоць, несумненна, не адзіным матывам у дзейнасьці Кубэ было стварэньне беларускіх узброеных сілаў для барацьбы з савецкімі партызанамі. Кубэ апублікаваў гэты праект 29 чэрвеня. Варта разгледзець яго больш падрабязна: па–першае, ён нарадзіўся пасьля таго, як пацярпелі няўдачу ўсе ранейшыя беларускія і нямецкія спробы стварэньня вайсковых часьцей на Беларусі. А па–другое, гэты праект на два месяцы апярэдзіў дырэктыву Гітлера № 46 ад 18.8.1942 г., якую Кубэ атрымаў у канцы жніўня — яна давала дазвол на стварэньне мясцовых антыпартызанскіх фармаваньняў[127]. Ня менш цікава выглядае і той факт, што ў першай палове чэрвеня Кубэ і SSPF Цэнэр сфармулявалі свае прапановы па барацьбе з партызанамі, пры гэтым ні адзін, ні другі яшчэ ня згадвалі пра беларускія фармаваньні. Такім чынам, рашэньне аб іх стварэньні нарадзілася толькі ў апошнія дні чэрвеня 1942 г.[128].

Імаверна, што Кубэ прыняў рашэньне аб арганізацыі Вольнага корпусу Беларускай са-

[124] Bergtsson H. Das unbekannteste Volk Europas // Preussische Zeitung. 1942. № 237; Kube W. Ein Jahr Zivilverwaltung // Deutsche Zeitung im 30.8.1942, № 237; Kube W. Aufbau in Weissruthenien // Тамсама. 31.8.1943. № 238.

[125] Рапарт Штраўха Баху ад 25.7.1943 // Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. 1956. Heft 1. S. 81—82.

[126] Раніца. 1942. 16 жніўня.

[127] Weisung № 46 des OKW, 18.8.1942 // Müller N. Okkupation—Raub—Vernichtung. Dokumente zur Besatzungspolitik der faschistischen Wehrmacht auf sowjetischem Territorium 1941—1944, Berlin, 1980. S. 131. 23.8.1942 Розэнбэрг пераслаў гэтую дырэктыву Лёзэ і Коху. Гл. AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 94/435.

[128] Ліст Кубэ да Лёзэ ад 12.6.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/609; Ліст Цэнэра да Екельна ад 13.6.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601816.

маахoвы (далей — БСА) бяз згоды Гімлера ці Розэнбэрга. Гімлер яшчэ ў траўні лічыў, што праект стварэньня літоўскіх, латыскіх і эстонскіх часьцей СС хоць і вельмі спакусьлівы, але небясьпечны. Паказальна, што пры гэтым ён ня згадваў беларускіх часьцей. Нарэшце, у чэрвені Гімлер пагадзіўся з пэўнымі агаворкамі на фармаваньне латыскіх і эстонскіх легіёнаў, якія павінны былі падначальвацца HSSPF Остлянду — Екельну. Магчыма, улады Остлянду палічылі, што гэтай падставы дастаткова, каб стварыць падобныя часьці і на Беларусі. Паводле інфармацыі Кубэ, прызыў беларусаў да зброі адбыўся з згоды Лёзэ[129].

Не было яснасьці ня толькі з фармальным дазволам на стварэньне беларускіх часьцей — пад пытальнікам заставаліся іх велічыня і структура. Кубэ абвясьціў, што гэта будзе Вольны корпус (*Freikorps*). Паводле нямецкай традыцыі, гэта былі атрады добраахвотнікаў бяз строга акрэсьленай колькасьці байцоў. Затое ў кіраўніцтве БНС гэта ўспрынялі як намер стварыць армейскі корпус (*Armee–Korps*) — у многіх краінах гэта была найбуйнейшая вайсковая адзінка, якая звычайна складалася з трох дывізій. Пры арганізацыі БСА гэта выклікала вялікія непаразуменьні. Шмат клопату нарабіла і другая праблема: каму павінны падпарадкоўвацца гэтыя часьці? 29 чэрвеня Кубэ даручыў іх фармаваньне Ермачэнку і адначасова папярэдзіў, што яны будуць падпарадкоўвацца камандзіру СС і паліцыі на Беларусі[130]. Ніякіх іншых дэталяў ён не зазначыў — іх распрацоўкай павінна было заняцца кіраўніцтва БНС.

Па даручэньні Ермачэнкі праект арганізацыі корпусу БСА апрацаваў маёр Францішак Кушаль, які дагэтуль быў начальнікам навучальных курсаў беларускай паліцыі ў Менску. У праекце прадугледжвалася стварэньне корпусу ў складзе трох дывізій разам з дапаможнымі службамі. Разьмясьціцца ён павінен быў наступным чынам: у Менску — штаб корпусу і адна дывізія, яе апэрацыйная зона ахоплівала Менскую і Слуцкую акругі; другую дывізію плянавалася раскватараваць у Баранавічах (акругі Баранавіцкая, Наваградзкая і Слонімская), трэцюю — у Вялейцы (акругі Вялейская, Лідзкая і Глыбоцкая)[131]. Гэты праект Ермачэнка прапанаваў Цэнэру, які 15 ліпеня выдаў загад на стварэньне корпусу БСА. Галоўным яго камандзірам быў прызначаны Ермачэнка, які сіламі БНС павінен быў арганізаваць набор добраахвотнікаў і забясьпечыць іх харчамі, жыльлём і абмундзіраваньнем. Для ажыцьцяўленьня гэтых задач Ермачэнка атрымаў права на стварэньне ў рамках БНС вайсковай камісіі (аддзелу) і прызначэньне акруговых камэндантаў БСА. Загад Цэнэра прадугледжваў стварэньне ў кожным раёне адзінкі БСА сілаю ад роты да батальёну. Нямецкая паліцыя павінна была забясьпечыць іх зброяй і кіраваць вучэбнай падрыхтоўкай і апэрацыйнай дзейнасьцю[132].

Пасьля вайны Кушаль пісаў, што “загад гэты зрабіў на нас вельмі непрыемнае ўражаньне. Зь яго ясна вынікала, што роля д–ра Ермачэнкі і людзей, пакліканых д–рам Ермачэнкам, зводзілася толькі да таго, каб паклікаць людзей, адзець іх, закватараваць і накарміць, а рэшта належала ўжо да немцаў”[133]. Аднак Ермачэнка адразу ж узяўся за справу. Неўзабаве пасьля атрыманьня загаду Цэнэра ён распачаў арганізацыю штабу БСА і прызначыў яго шэфам падпалкоўніка Язэпа Гуцьку. У канцы ліпеня ён склікаў зьезд акруговых і раённых кіраўнікоў БНС, на якім распрацаваў плян забесьпячэньня войска харчамі, абмундзіраваньнем і жыльлём. На пачатку жніўня ў Менску адкрыліся афіцэрскія курсы, начальнікам якіх стаў Кушаль. Да паловы лістапада тут было падрых-

[129] Ліст Кубэ да Лёзэ ад 6.10.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, г. 39/436.

[130] Беларуская Газэта. 1942. 8 ліпеня.

[131] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі беларускага войска пры нямецкай акупацыі Беларусі. Машынапіс з збору бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане. С. 4. — *Ю.Т.*

Гл. таксама: Кушаль Ф. Спробы стварэньня беларускага войска. Менск, 1999. С. 44. Далей цытаты з Ф. Кушаля падаюцца паводле гэтага выданьня. — *А.С.*

[132] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 5.

[133] Тамсама.

тавана каля 260 афіцэраў царскай, польскай і савецкай арміі. Адначасова ў Баранавічах, Наваградку, Вялейцы, Глыбокім, Браславе, Паставах і іншых гарадох адкрыліся падафіцэрскія курсы[134], на якіх было падрыхтавана колькі тысяч падафіцэраў.

Пытаньнем спрэчным, але і асабліва цікавым, выглядае рэкрутацыя ў БСА: паводле праекту, яна павінна была весьціся згодна з прынцыпам добраахвотнасьці. Савецкія крыніцы сьцьвярджаюць, што добраахвотнікаў увогуле не было, таму акупанты распачалі прымусовую мабілізацыю, аднак супраціў партызан і мірнага насельніцтва пазбавіў яе плёну[135]. Але тагачасныя крыніцы не пацьвярджаюць такіх ацэнак. Як паведамляў Кушаль, паведамленьне пра стварэньне БСА выклікала ў насельніцтва “надзвычайны энтузіязм” і перакананьне, што ёй удасца зьнішчыць партызаншчыну і стаць зародкам будучага беларускага войска[136]. Паводле Канстанціна Езавітава, наплыў добраахвотнікаў быў такі вялікі, што ня ўсе зь іх маглі быць прынятыя[137]. Аднак гэтыя выказваньні трэба ацэньваць крытычна, улічваючы тэндэнцыйнасьць аўтараў і зьвязаную з гэтым схільнасьць да перабольшаньняў. Кубэ, у сваю чаргу, у кастрычніку заявіў, што служыць у БСА пажадала каля 15 тысяч беларусаў[138]. Напэўна, частка зь іх пайшла на гэта не па сваёй волі, аб чым сьведчыць прымусовая мабілізацыя ў Ганцавіцкай акрузе[139]. З паведамленьняў прэсы вынікае, што добраахвотнікаў усё ж было нямала, нават у Нямеччыне і Беластоцкай акрузе, дзе БНС не разгортвала сваёй дзейнасьці[140].

Праект стварэньня корпусу БСА нават у такім выглядзе, як гэта прадугледжваў Цэнэр, выклікаў незадавальненьне вышэйшых нямецкіх паліцыйных уладаў. Праўда, яны разумелі, якую карысьць можа прынесьці ўзмацненьне антыпартызанскіх сілаў на Беларусі, аднак, з другога боку, не жадалі ўмацаваньня палітычнай пазыцыі Ермачэнкі, якога ўважалі за сапраўднага ініцыятара і натхніцеля праекту. У канцы ліпеня шэф СД Остлянду паведамляў Лёзэ:

> У папярэдніх штодзённых справаздачах ужо гаварылася пра тое, што беларускія нацыянальныя колы інсьпіруюць стварэньне “беларускага легіёну” зь беларускім камандаваньнем. Кіраўнік мясцовай самапомачы (БНС), ад якога зыходзіць праект фармаваньня БСА, разьвівае ў гэтай галіне актыўнасьць, характэрную для плянаў, якія беларуская інтэлігенцыя ў Менску зьвязвае з стварэньнем самааховы. Прымаюцца захады, каб забясьпечыць будучыя часьці Самааховы адзіным абмундзіраваньнем і ўзбраеньнем, у тым ліку лёгкай пяхотнай і аўтаматычнай зброяй, каб адразу надаць ім рэгулярны вайсковы характар; а пазьней, пасьля правядзеньня першых апэрацыяў, мець права выстаўляць свае патрабаваньні[141].

Такім чынам, пазыцыя паліцыйных уладаў Остлянду адлюстроўвала палітычнае гледзішча, згоднае з прынцыпамі Гімлера, якое можна трактаваць як неўхваленьне дзеяньняў Кубэ ня толькі ў справе БСА, але і ўсёй яго беларускай палітыкі. Таму Цэнэр, які занадта падпарадкоўваўся Кубэ, у канцы ліпеня быў адкліканы з пасады шэфа СС і паліцыі на Беларусі. Яго пераемнік, Вальтэр Шымана, кіруючыся ўказаньнямі Екельна, адразу ж пачаў

---

134 Тамсама, с. 5—7; Раніца. 1942. 23 жніўня; тамсама. 1942. 30 жніўня; 1942. 27 верасьня; 1942. 15 лістапада.
135 Всенародное партизанское движение... Т. 1. С. 675.
136 Кушаль Ф. С. 5.
137 Езавітаў К. Толькі зброяй здабудзем незалежнасьць // Раніца. 1944. 29 лістапада.
138 Ліст Кубэ да Лёзэ ад 6.10.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/436.
139 Справаздача “Эвы” з падарожжа ў Менск, ЦА ЦК ПАРП, 203/VII–45, k. 23. Паездка адбылася ў ліпені 1942 г.
140 Раніца. 1942. 6 верасьня; 1942. 4 кастрычніка.
141 Ліст камандзіра *Sipo* і СД Остлянду да Лёзэ ад 29.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/301.

выпраўляць “памылкі” свайго папярэдніка: у верасьні Ермачэнку пазбавілі тытулу галоўнага камандзіра БСА, штаб яе быў распушчаны, афіцэрскія чыны скасаваныя. Батальёнам БСА, якія ўжо пасьпелі сфармавацца, не далі зброі — ім прапанавалі перайсьці на статус паліцыйных батальёнаў (*Schutzmannschaften*) пад камандаю нямецкіх афіцэраў. Аднак кіраўніцтва БНС і камандаваньне БСА не пагаджаліся з такімі прапановамі — перш за ўсё яны імкнуліся захаваць сваю адасобленасьць[142].

Праблема, па сутнасьці, зводзілася да таго, каб захаваць у часьцях БСА беларускую мову і камандзірскія кадры (*weissruthenischer Selbstschutz*) — г.зн. іх нацыянальны характар. У паліцыйных батальёнах (*Schutzmannschaften*) пад камандаваньнем нямецкіх афіцэраў гэта было немагчыма. Такім чынам, канфлікт набываў палітычнае адценьне. Кубэ рашуча падтрымаў імкненьне лідэраў БНС забясьпечыць адасобленасьць часьцей Самааховы, бо гэта адпавядала яго ўласным нацыянальным канцэпцыям. Ён неаднаразова зьвяртаўся да Лёзэ з просьбаю забясьпечыць беларускія атрады зброяй і хадайнічаць у гэтай справе перад камандаваньнем Вэрмахту, Розэнбэргам і нават самім Гітлерам. Кубэ даводзіў, што зрабіў усё, каб настроіць беларускае насельніцтва супраць партызан, і падкрэсьліваў, што “як мага хутчэйшае ўзбраеньне беларускіх добраахвотнікаў — першачарговая задача ў барацьбе з бандамі”[143]. Рэальны рост партызанскай актыўнасьці быў самым важкім аргумэнтам у гэтай спрэчцы — праігнараваць довады “беларускага гаўляйтэра” было ня так лёгка.

Заступніцтва Кубэ прынесла некаторы, хоць і вельмі сьціплы, плён. У лістападзе вышэйшыя паліцыйныя ўлады мусілі, хаця і неахвотна, прызнаць два факты: па–першае, што “ідэя Беларускай самааховы супраць бандытызму на самай справе знайшла даволі шырокі водгук сярод мясцовага насельніцтва”[144], а па–другое, што маладыя беларусы выразна супраціўляліся іх пераводу ў паліцыйныя батальёны. Пра гэта сьведчыла іх масавае дэзэртэрства з т.зв. батальёну № 49 — першага фармаваньня такога тыпу на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі, стварэньне якога Шымана распачаў у жніўні 1942 г.[145]. Таму — насуперак уласнаму нежаданьню і адгаворкам — давялося пагадзіцца нарэшце на тое, каб захаваць Беларускую самаахову. У рамках БНС пакінулі вайсковы сэктар і ў другой палове лістапада прызначылі яго шэфам Кушаля. Ён кіраваў дзейнасьцю акруговых і павятовых рэфэрэнтаў БНС па справах самааховы. Паводле Кушаля, было сфармавана ўсяго каля 20 батальёнаў БСА і некалькі меншых падразьдзяленьняў[146]. Аднак цяжка акрэсьліць іх фармальны статус. На думку Кушаля, яны падначальваліся ня толькі мясцовым рэфэрэнтам БНС, але і акруговым камандзірам нямецкай паліцыі, тым ня менш у некаторых акругах часьці БСА лічылі сябе за незалежныя ад немцаў беларускія фармаваньні[147].

Але гэтая “незалежнасьць” стварала немалыя праблемы. Паліцыйныя ўлады, ня маючы даверу да беларускіх атрадаў, адмаўляліся забясьпечваць іх абмундзіраваньнем, таму салдаты і камандзіры мусілі хадзіць ува ўласнай вопратцы — вонкава яны мала

---

[142] Кушаль Ф. С. 7—9, 11.

[143] Лісты Кубэ да Лёзэ ад 16 і 18 верасьня, а таксама ад 6 кастрычніка 1942 г. AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 30/797—800 і r. 39/436.

[144] “...der Gedanke des “weissruthenischen Selbstschutzes” gegen das Bandenunwesen tatsächlich einen relativ Breiten Resonanzboden bei Teil der einheimischen Bevölkerung gefunden habe” // Meldungen.., № 29, 13.11.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 236/2725126.

[145] Кушаль Ф. С. 11.

[146] Тамсама, с. 8.

[147] Цікавую інфармацыю падае на гэты конт Кіслы, слонімскі гарадзкі начальнік, у сваім лісьце ў акруговы камісарыят ад 12.3.1943 г.: “...цяпер самаахова слонімскай БНС ужо не існуе, але калі яшчэ існавала, яна не падпарадкоўвалася паліцыйнаму камандаваньню...” // AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/EAP/99/45.

чым адрозьніваліся ад партызан[148]. Счакаўшы некалькі месяцаў, пад канец 1942 г. часьцям БСА выдалі невялікую колькасьць зброі. Гэта не вырашала пытаньня з узбраеньнем, але і не ствярала вялікай праблемы: зброю здабывалі ўласнай рукой, у т.л. куплялі ў нямецкіх салдат. Як піша Кушаль, такім чынам узброіўся цэлы батальён у Рудзенску Менскай акругі[149]. Сяргей Хмара, апавядаючы пра сытуацыю ў Слонімскай акрузе, падае нават цэны, па якіх рабіліся такія ўгоды. Так, напрыклад, кулямёт, які купляўся ў нямецкіх або італьянскіх салдат, што вярталіся з фронту, каштаваў 9 кг саланіны і 5 літраў самагону. Звычайныя аўтаматы куплялі нават... у савецкіх партызан — за іх плацілі пару бутэлек гарэлкі. Такім чынам, — зазначае далей Хмара, — адзін з слонімскіх батальёнаў наўзабаве займеў восем кулямётаў і нават мінамёты[150].

**Карныя акцыі і канфлікт Кубэ з СС**

Барацьба з партызанамі — гэта вайна зь невызначаным праціўнікам, які атаясамліваецца з насельніцтвам. Яна закранае гэтае насельніцтва беспасярэдне, без увагі на пазыцыю, занятую ім у барацьбе. Улада звычайна перакладае адказнасьць за партызанскія выступленьні на плечы навакольнага цывільнага люду. Такім чынам, насельніцтва прымушаюць улучыцца ў антыпартызанскую барацьбу, бо ў адваротным выпадку яно само становіцца ахвярай карных акцыяў. Гэта клясычны мэтад, стасаваны і да другой сусьветнай вайны, і пасьля яе, які незалежна ад ваенных апэрацыяў і тэрору як сродкаў запалохваньня павінен быў пазбавіць партызан апоры ў мясцовага насельніцтва. У залежнасьці ад варункаў мэта дасягалася рознымі сродкамі. Адным з самых гуманных была прапаганда (такую ролю эфэктыўна адыграў падчас паўстаньня 1863 г. царскі маніфэст аб скасаваньні прыгону для сялян Літвы і Беларусі), а да найбольш радыкальных належала “ачыстка” пацыфікаванай тэрыторыі (напрыклад, скіраваная супраць УПА акцыя “Вісла”) ад насельніцтва.

Нямецкія карныя акцыі на Беларусі савецкая гістарыяграфія часта акрэсьлівала як “барацьбу з партызанамі і насельніцтвам”. У прынцыпе гэта слушная фармулёўка, аднак яна адлюстроўвае толькі вынікі гэтых апэрацыяў, але ня іх прычыны: на тэрыторыях, дзе не былі занатаваны выступленьні партызан, не натавалася і “барацьбы з насельніцтвам”. У першыя тыдні вайны Гімлер, адказны за бясьпеку, у т.л. і на Беларусі, даў распараджэньне ахоўным атрадам СС, якія займаліся ачышчэньнем новазанятых раёнаў ад чырвонаармейцаў, “сэлектыўна” паводзіць сябе зь мясцовым насельніцтвам. У загадзе, адрасаваным Баху, ад 28.7.1941 г. ён указваў, што жыхароў, якія ставяцца да Нямеччыны прыхільна, трэба ашчаджаць і нават часткова ўзбройваць, затое супраць насельніцтва, якое падтрымлівае савецкіх марадэраў і партызан, належыць прымаць самыя вострыя меры: мужчын — расстрэльваць, дзяцей і жанчын — дэпартаваць, а вёскі — спальваць[151]. Аднак вызначыць дакладна пазыцыю насельніцтва было, па сутнасьці, немагчыма, таму ўжо ўлетку і ўвосень 1941 г. шмат беларускіх вёсак, асабліва тых, што стаялі паблізу вялікіх лясных масіваў, было спалена.

Актывізацыя дзейнасьці савецкіх партызан на Беларусі, якая зь вясны 1942 г. пачала набываць характар старанна арганізаванай вайсковай апэрацыі ў тыле фронту, стварыла цалкам новую сытуацыю, да яе акупацыйныя ўлады не былі падрыхтаваны. Зрэшты, зьмяніўся сам характар партызанскага руху: яго ядром сталі перакінутыя з–за лініі фронту спэцыяльна падрыхтаваныя атрады Чырвонай Арміі, якія атрымлівалі загады і ўзбраеньне з савецкага тылу. Таму немцы неўзабаве пераканаліся ў непрыдатнасьці

[148] Акула К. Змагарныя дарогі. Таронта—Мюнхэн, 1962. С. 27.
[149] Кушаль Ф. С. 9.
[150] Хмара С. Пад гітлераўцамі // Беларускі Голас. Таронта. 1970. № 181. Сакавік.
[151] Unsere Ehre heisst Treue. Wien—Frankfurt—Zürich, 1965. S. 210.

ранейшых паліцыйных захадаў і прыйшлі да высновы, што весьці барацьбу супраць партызан трэба іншымі спосабамі.

Плян Кубэ, інсьпіраваны Ермачэнкам, грунтаваўся на стварэньні густой сеткі атрадаў Беларускай самааховы, падмацаваных сіламі СС і Вэрмахту, і, безумоўна, адпавядаў новым задачам антыпартызанскай барацьбы. Паводле задумы, атрады БСА павінны былі быць невялікія — ад роты да батальёна ў кожным раёне, мабільныя і, самае галоўнае, настолькі добра зарыентаваныя ў мясцовай сытуацыі, каб распазнаць сапраўдных партызан. Для партызан гэты плян уяўляў рэальную пагрозу, пра што сьведчыць іх "фанатычная і бязьмежная нянавісьць" да атрадаў БСА[152]. Яны мелі перад сабою досьвед Прыбалтыкі, дзе мясцовыя паліцыйныя сілы цалкам перакрэсьлілі шанцы для больш значнага разьвіцьця савецкага партызанскага руху.

Лёзэ падтрымаў плян Кубэ, затое Гімлеру ён не спадабаўся, аб чым сьведчыла адкліканьне Цэнэра і перашкоды, якія ствараліся ў справе ўзбраеньня беларускіх батальёнаў. У некаторай ступені тут быў прычынаю праектаваны статус БСА: часткова яна была падпарадкавана БНС, а значыць, мела больш самастойнасьці, чым паліцыйныя батальёны. Аднак цяжка дапусьціць, што гэты фактар, таксама як і боязь празьмернага росту беларускага нацыяналізму, адыгрывалі тут больш значную ролю. У тагачасных умовах забясьпечыць нямецкі кантроль над БСА не складала асаблівай праблемы. Такім чынам, можна меркаваць, што гэты плян Гімлер успрыняў як чарговую спробу ўмяшальніцтва цывільнай адміністрацыі ў кампэтэнцыю СС і паліцыі, што і перадвызначыла яго няўдачу. Гімлер спадзяваўся расправіцца з партызаншчынай безь якіх–колечы палітычных саступак на карысьць беларусам.

Пазыцыю СС і паліцыі што да цывільнай адміністрацыі выдатна ўмацавала дырэктыва Гітлера № 46, якая барацьбу з партызанамі, таксама як і дзеяньні на фронце, прызнавала справаю найвышэйшага камандаваньня, канцэнтравала яе ў руках Гімлера і аддавала ў яго распараджэньне ўсе рэзэрвовыя сілы Вэрмахту, СС і паліцыі, каб яшчэ да пачатку найбліжэйшай зімы разьбіць асноўныя партызанскія сілы. Меркавалася, што гэтай мэты ўдасца дасягнуць шляхам т.зв. вялікіх карных апэрацыяў — скаардынаваных комплексных акцыяў на акрэсьленых вялікіх землях. Гімлер і Гёрынг спадзяваліся, што падчас правядзеньня гэтых апэрацыяў вынішчэньне партызан удасца спалучыць з рэквізыцыямі свойскай жывёлы і іншых харчовых прадуктаў, а таксама — прымусовым вывазам насельніцтва на працу ў Нямеччыну або ў канцлягеры[153]. Побач з гэтымі дзеяньнямі ішлі расстрэлы вясковых жыхароў, якія падазраваліся ў спачуваньні або дапамозе партызанам, вынішчэньне габрэяў, што хаваліся па лясах, паленьне цэлых вёсак і іншыя злачынствы[154].

Паводле савецкіх крыніц, за ўвесь пэрыяд акупацыі на Беларусі было праведзена больш за 60 карных экспэдыцыяў, у выніку якіх было зьнішчана 692 вёскі разам зь іх жыхарамі[155]. Па няпоўных зьвестках, пададзеных у табліцы 11, падчас 28 падобных апэрацый ад рук карнікаў загінула звыш 70 тысяч чалавек. Нельга, аднак, падлічыць усе людзкія страты, нанесеныя ў часе ўсіх карных экспэдыцыяў, шляхам падваеньня гэтага ліку, па-

---

[152] "Der Hass der militärischen «Partisanen» gegen die einheimische weissruthenische Selbstschutzmannschaft ist fanatisch und grenzlos" — фармулёўка нямецкіх паліцыйных крыніц // AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/406.

[153] Інструкцыя Гёрынга ад 26.10.1942 і Гімлера ад 30.10.1942 // Hesse. Der sowjetrussische Partizanenkrieg... S. 167.

[154] Гл. унікальныя сьведчаньні людзей, якія перажылі жахі карных апэрацыяў на Беларусі, у кн.: Адамовіч А., Брыль Я., Калесьнік У. Я з вогненнай вёскі. Мінск, 1975.

[155] БСЭ. Мінск, 1970. Т. 3. С. 135. Пазначаная колькасьць спаленых вёсак (692) датычыць толькі паселішчаў, дзе налічвалася ня менш за 50 жыхароў. БелСЭ (Т. 5. С. 451) падае яшчэ большыя лічбы карных апэрацыяў (звыш 100), напэўна, з улікам самых дробных акцыяў.

**Табліца 11.** Вынікі некаторых карных акцыяў у Беларусі*

| Кодавая назва і месца правядзеньня апэрацыі | | Дата апэрацыі | Забіта людзей | | Узята ў палон | Вывезена на працу ў Нямеччыну | Рэквізавана свойскай жывёлы (галоў) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | агулам | у баях | | | |
| “Майкэфэр—Адлер” | Бабруйск — Магілёў | 07—08.1942 | 1500 | — | — | — | 3000 |
| “Грайф” | Віцебск — Ворша | 08.1942 | 1395 | — | — | — | — |
| “Зумпфібэр” | розныя раёны Беларусі | 08—09.1942 | 10 013 | 389 | — | 1217 | 67 |
| “Лухс” | ваколіцы Лепеля | 09.1942 | 400 | — | — | 300 | 1415 |
| “Бліц” | Віцебск — Полацак | 09—10.1942 | 500 | — | — | — | — |
| “Карлсбад” | Барысаў — Ворша | 10.1942 | 1051 | — | — | — | — |
| “Нюрнбэрг” | Глыбоцкая акруга | 11.1942 | 3034 | 798 | 348 | — | — |
| “Фрыда” | Барысаўская акруга | 11.1942 | 136 | — | — | 1600 | 630 |
| “Альбэрт–II” | ваколіцы Рудзенску | 11.1942 | 127 | — | 10 | — | — |
| “Зонэнвэндэ” | ваколіцы Магілёва | 12.1942 | 271 | 105 | — | — | — |
| “Мюнхэн” | ваколіцы Радашкавіч | 12.1942 | 63 | — | 6 | — | — |
| “Гамбург” | Слонімская акруга | 12.1942 | 6172 | 1674 | — | — | — |
| “Альтона” | Косава — Быцень | 12.1942 | 1032 | 97 | — | — | — |
| “Эрнтэфэст–1” | Чэрвень — Асіповічы | 01.1943 | 1970 | 805 | 34 | 1308 | 5330 |
| “Эрнтэфэст–2” | ваколіцы Слуцку | 01-02.1943 | 2325 | — | — | 272 | — |
| “Вальдвінтэр” | ваколіцы Полацку | 01.1943 | 1627 | 90 | — | 2041 | 8632 |
| “Франц” | Чэрвень — Асіповічы | 01.1943 | 2025 | 1143 | — | 1000 | 2400 |
| “Шнэехазэ” | ваколіцы Полацку | 01—02.1943 | 877 | — | — | — | — |
| “Вінтэрцаўбэр” | ваколіцы Полацку | 02—03.1943 | 633 | — | — | 200 | 499 |
| “Горнунг” | Слуцкая акруга | 02—03.1943 | 12 897 | 2219 | 65 | — | 16 700 |
| “Ніксэ” | раён возера Чырвонае | 02—03.1943 | 696 | — | — | 100 | 300 |
| “Фён” | ваколіцы Лунінцу | 03.1943 | 500 | — | — | 1225 | 2890 |
| “Доннэркайль” | ваколіцы Полацку | 03.1943 | 542 | — | — | 345 | — |
| “Майгэвітэр” | Віцебск — Сураж | 05.1943 | 2000 | — | — | — | — |
| “Котбус” | Бягомль — Барысаў — Лепель | 05—06.1943 | 12 000 — 13 000 | 6087 | 599 | 6053 | 6501 |
| “Герман” | Налібакі — Дзяржынск | 07—08.1943 | — | 4280 | 654 | 20 944 | 21 059 |
| “Фрыц” | Глыбоцкая акруга | 09—10.1943 | 509 | 327 | 227 | 11 724 | 35 943 |

*Крыніцы:* Meldungen über Bandenbekämpfung, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, ролік 124 і 236; Преступления немецко–фашистских оккупантов в Белоруссии (1941—1944). Минск, 1965; БелСЭ. Т. 1—12. Минск, 1969—1975; Trials of War Criminals before the Nuernberg Military Tribunals. T. XIII. Washington, 1952. P. 308.

* У табліцы прыведзены толькі тыя карныя апэрацыі, вынікі якіх можна было высьветліць на падставе дакумэнтаў.

колькі ў табліцу ўвайшлі ўсе найбуйнейшыя карныя акцыі. Таму агульную колькасьць забітых, спаленых жыўцом і зьнішчаных іншым шляхам людзей падчас гэтых акцыяў на Беларусі зь вялікай асьцярогай можна ацаніць прыблізна ў 100 тысяч чалавек[156].

Першая карная апэрацыя на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі мела назву "Зумпфібэр" ("Балотная ліхаманка"). Яна праводзілася з 21 жніўня па 21 верасьня 1942 г. пад камандаваньнем HSSPF Остлянду Екельна. Вынікі яе, паводле рапарту, былі наступныя: спалена 49 партызанскіх лягераў і некалькі вёсак, забіта ў баях 389 партызан, 1274 цывільныя жыхары, якіх западозрылі ў супрацоўніцтве з партызанамі, і 8350 габрэяў. Да таго ж "эвакуавана" 1217 чалавек. Такім чынам, усяго было забіта больш за 10 тысяч чалавек, зь якіх партызаны не складалі і 4%.

Вынікі акцыі "Зумпфібэр" былі значна большыя за яе антыпартызанскі эфэкт. Кубэ высьмейваў Екельна, які лічыў гэтую апэрацыю за вялікае дасягненьне ў барацьбе з партызанскай пагрозай, і адначасова паведаміў Лёзэ, што такія сродкі ня толькі перашкаджаюць дзейнасьці падначаленага яму мясцовага адміністрацыйнага апарату, але ўвогуле не судзеюць паляпшэньню стану бясьпекі[157]. Забойствы нявінных людзей падымала апэрацыйныя паказчыкі СС, затое падрывала палітыку Кубэ, скіраваную на здабыцьцё прыхільнасьці тутэйшага насельніцтва. Цікава, што яго падтрымаў SSPF Шымана, які пацьвердзіў, што вялікая акцыя Екельна мала што дала, бо партызаны паўцякалі[158]. І Кубэ, і Шымана адначасова выступілі супраць правядзеньня такіх апэрацыяў у будучым. У гэтай справе Шымана зьбіраўся прапанаваць Екельну стварэньне густой сеткі паліцыйных базаў, якая ахоплівала б кожны раённы горад. На яго думку, гэтае мерапрыемства дало б куды большы плён у барацьбе з партызанамі[159]. Такім чынам, менскі шэф СС і паліцыі падтрымаў канцэпцыю Кубэ.

Гэта была ня толькі крытыка бяздарнасьці паліцыі і апэрацыі Екельна. У канцавым рахунку ўсё сказанае датычыла Гімлера як галоўнага рэжысэра вялікіх карных экспэдыцыяў, і гэта пасьля таго, як сам Гітлер перадаў яму найвышэйшыя паўнамоцтвы ў барацьбе з партызанамі. З Шыманам разабрацца было прасьцей — ён быў чалавекам гімлераўскага ведамства, таму неўзабаве яго проста перавялі на ніжэйшую пасаду камандзіра паліцыі парадку ў Менску[160]. З Кубэ затое было ня так лёгка, нягледзячы на яго няспынныя выступленьні супраць СС. Пасьля "нахабных" абвінавачваньняў СС у крадзяжы мастацкіх твораў у Менску, пасьля ўмяшальніцтва ў справу вынішчэньня слуцкіх габрэяў, пасьля "нягоднай немца пазыцыі" што да беларусаў[161] і ўмяшальніцтва ў кампэтэнцыю СС і паліцыі пры арганізацыі БСА, Кубэ цяпер выступіў супраць масавых забойстваў цывільнага насельніцтва і спальваньня вёсак. Выступіў акурат тады, калі Гімлер зьбіраўся зрабіць гэтыя акцыі сталым элемэнтам усіх вялікіх карных апэрацыяў, і пры гэтым яшчэ сьцьвярджаў (што ўжо выглядала як іронія), быццам у сувязі з антыпартызанскімі экспэдыцыямі на Беларусі пагоршыліся гігіенічныя варункі і ўзьнікла небясьпека эпідэміяў[162].

Такім чынам, у барацьбе супраць партызанскага руху на Беларусі абазначыліся два

---

[156] У гэтыя лічбы ўлучана і колькасьць узятых у палон партызанаў, якіх звычайна расстрэльвалі. Савецкія крыніцы не прыводзяць такіх падлікаў, а падаюць толькі колькасьць спаленых вёсак.

[157] Рапарт Штраўха Баху ад 25.7.1943... С. 84; справаздача РКО Розэнбэргу ад 16.9.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 26/593.

[158] Ліст Шыманы да Кубэ ад 14.9.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 30/798

[159] Тамсама.

[160] Тэлеграма Екельна да Гімлера ад 31.10.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601763.

[161] Рапарт Штраўха да Баха ад 25.7.1943... С. 81.

[162] Ліст генэральнага камісарыяту ў Менску да РКО ад 27.10.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/697.

напрамкі, пачалася вайна за мэтады, якімі яна павінна была весьціся, множыліся ўзаемныя папрокі і абвінавачваньні паміж цывільнай адміністрацыяй і СС у бяздарнасьці і няўмельстве. Спакою на будучыню гэта не варажыла, тым больш, што Кубэ выразна ігнараваў патрабаваньні Бэргера — гімлераўскага стаўленіка ў ОМі, які яшчэ зусім нядаўна катэгарычна і “ў апошні раз” дамагаўся, каб цывільная адміністрацыя на ўсходзе ня ўмешвалася ў кампэтэнцыі райхсфюрэра СС[163]. Таму, калі ў кастрычніку Лёзэ зьявіўся ў Бэрліне, Бэргер высьветліў імгненна, што ён зьбіраецца разам з Розэнбэргам пайсьці да Гітлера, каб абвінаваціць паліцыю ў няздатнасьці весьці барацьбу з партызанамі і прапанаваць поўнасьцю падпарадкаваць яе цывільным уладам[164]. Бэргер здабыў нават дакумэнтацыю з выступленьня Лёзэ і перадаў яе Гімлеру. Празь месяц ён адкрыта раіў сваму шэфу правесьці чыстку сярод высокіх чыноў цывільнага кіраўніцтва на ўсходзе, якія выяўляюць варожасьць да СС[165]. Аднак Гімлер, нягледзячы на магутную ўладу і ня меншае жаданьне, ня мог скінуць Кубэ з пасады генэральнага камісара Беларусі, на якую яго прызначыў сам Гітлер. Затое, маючы найвышэйшыя паўнамоцтвы ў барацьбе з партызанамі, ён мог дзейнічаць іншым шляхам.

Неўзабаве пасьля таго, як Лёзэ ў кастрычніку наведаў Бэрлін, Гімлер выдаў шэраг важных распараджэньняў, якія мелі сур’ёзны ўплыў на далейшыя падзеі. 23 кастрычніка ён прызначыў Баха сваім упаўнаважаным па справах барацьбы з партызанамі, пакінуўшы за ім ранейшае званьне HSSPF *Russland–Mitte* (шэфа СС і паліцыі Цэнтральнай Расеі)[166]. Амаль адначасова ён выдаў загад, паводле якога SSPF у Менску, які дагэтуль падпарадкоўваўся паліцыйным уладам Остлянду, цяпер пераводзіўся пад камандаваньне Баха[167]. Дзейнасьць службы бясьпекі (СД) генэральнай акругі Беларусі ў галіне антыпартызанскай выведкі таксама перайшла пад яго кіраўніцтва[168]. Нарэшце, пад канец кастрычніка Гімлер прызначыў на пасаду SSPF Беларусі бязьмежна адданага сабе чалавека — брыгадэнфюрэра СС і генэрал–маёра паліцыі Курта фон Готбэрга, які замяніў Шымана[169].

У лютым 1943 г. штаб Баха пераехаў з Магілёва ў Менск[170]. Неўзабаве, 26.3.1943 г., Бах як упаўнаважаны па барацьбе з партызанскім рухам пераехаў у стаўку Гімлера, у Менску тым часам засталася частка яго штабу, якая 23.3.1943 г. атрымала новую назву: *Der Höhere SS–und Polizeiführer Russland–Mitte und Weissruthenien* (Галоўнакамандуючы СС і паліцыі Цэнтральнай Расеі і Беларусі — далей скарочана HSSPF RM und WR)[171]. Гэты тытул адлюстроўваў зьліцьцё ў руках адзінага камандаваньня дзейнасьці СС і паліцыі на тэрыторыі вайсковай адміністрацыі і генэральнай акругі Беларусі. Паколькі ў Баха зьявіліся новыя абавязкі, кіраваць штабам HSSPF RM und WR павінен быў намесьнік — групэнфюрэр СС і генэрал–лейтэнант паліцыі Корзэман, а ў выпадку яго адсутнасьці — фон Готбэрг[172]. Бах і Корзэман практычна бывалі ў Менску нячаста,

---

[163] Ліст Бэргера да Гімлера ад 17.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 122/2647654.

[164] Ліст Бэргера да Гімлера ад 22.10.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 129/2655182.

[165] Ліст Бэргера да Гімлера ад 21.11.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 129/2655149.

[166] Himmler, SS–Befehl, 21.6.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 119/2644775; Bach, Tagesbefehl № 2, 24.3.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, R. 225/2764141.

[167] Тэлеграма Екельна да Гімлера ад 31.10.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601763.

[168] Преступные цели — преступные средства. Документы об оккупационной политике фашистской Германии на территории СССР 1941—1944 гг. Москва, 1968. С. 129.

[169] Дакладную дату гэтага прызначэньня аўтару ўстанавіць не ўдалося. Аднак вядома, што Готбэрг прадставіўся Екельну ў Рызе 3.11.1942 г., пасьля чаго выехаў у Менск, каб заняць сваю пасаду // Ліст Готбэрга да Гільдэбранта ад 5.12.1942 г., AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 138/2666252.

[170] Bach, Tagesbefehl № 1, 17.3.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 266/2765538.

[171] Тамсама. № 2. 24.3.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 225/2764141.

[172] Тамсама.

таму сапраўдным кіраўніком усіх паліцыйных сілаў ува Ўсходняй і Заходняй Беларусі заставаўся фон Готбэрг. Яму падпарадкоўваліся тэрытарыяльныя пасты — SSPF Цэнтральнай Расеі ў Магілёве і SSPF Беларусі ў Менску. Аднак яны не адыгрывалі важнай ролі, тым болей што функцыі абодвух практычна не былі падзеленыя і заставаліся ў руках Готбэрга.

Такім чынам, генэральная акруга Беларусь, хоць і заставалася ў складзе Остлянду, пад канец кастрычніка 1942 г. фактычна аказалася падпарадкаваная двум асяродкам вышэйшай акупацыйнай улады. Адміністрацыйны апарат, якім распараджаўся Кубэ, па–ранейшаму падпарадкоўваўся Лёзэ, затое ўсе сілы СС і паліцыі — Баху і яго намесьніку Готбэргу. Гэта стварала новую сытуацыю, у якой СС непазьбежна павінна была пераважыць. Кубэ выдатна гэта зразумеў і дзеля асабістай перастрахоўкі 9.11.1942 г. выслаў Гімлеру ліст, у якім запэўніваў яго ў абсалютнай ляяльнасьці перад СС, а таксама — у падтрымцы супрацьпартызанскай барацьбы Баха[173]. На фоне папярэдніх сутыкненьняў такія прызнаньні маглі здацца Гімлеру сэнсацыяй, адразу ж пасьля атрыманьня ён даручыў пераслаць пісьмо Кубэ Баху — дзеля азнаямленьня[174]. Яны абодва разумелі: шчыра прызнавацца ў ляяльнасьці, ведаючы, якімі мэтадамі вядзецца барацьба з партызанамі, Кубэ мог толькі ў адным выпадку: калі вырашыў адмовіцца ад сваёй ранейшай беларускай палітыкі. Аднак гэтага ён не рабіў[175], і паліцыйныя ўлады зразумелі, што салідарызацыя з СС была для яго толькі прыкрыцьцём, камуфляжам. Пад канец 1942 г. пазыцыі абодвух бакоў акрэсьліліся выразна, ніхто зь іх ужо ня бачыў шляхоў да паразуменьня. Мяркуючы па ўсім, ужо тады кіраўніцтва СС вырашыла прыбраць Кубэ зь яго пасады ў Менску.

У студзені 1943 г. дзеля гэтага распачалася кампанія, скіраваная на вылучэньне генэральнай акругі Беларусі з складу Остлянду і падпарадкаваньне яе вайсковым уладам — гэтыя захады павінны былі прывесьці да ліквідацыі цывільнай адміністрацыі на падлеглым Кубэ абшары. Такія праекты снаваліся ў штабе Клюге ў Смаленску, іх пускалі на абмеркаваньне ў вайсковых колах у Менску, а пазьней — і Рыгі[176]. Праект ліквідацыі цывільнага кіраўніцтва на Беларусі падтрымліваў і штаб Гёрынга, і яго прадстаўнікі ў ОМі (Кёрнэр, Томас, Рыке, Шлотэрэр), якія пасьля страты Кубані і значнай часткі Ўкраіны разьлічвалі на ўзмацненьне эксплюатацыі Беларусі[177]. Ня выключана, што ролю нат-

[173] У сваім лісьце ад 9.11.1942 г. Кубэ пісаў наступнае:

Шаноўны пане райхсьляйтэр СС! Дарагі аднапартыец Гімлер! Сардэчна дзякую Вам за прысланьне майго старога супрацоўніка з часоў барацьбы (за перамогу НСРПН. — *Ю.Т.*) обэр–групэнфюрэра СС генэрала фон дэм Баха. Такім чынам, барацьба з партызаншчынай нарэшце апынулася на правільным шляху. Ужо ў першыя ж дні обэр–групэнфюрэр фон дэм Бах у двух выпадках дасягнуў рашучых посьпехаў супраць партызанаў, якія ўзбуджаюць ува мне надзею, што цяпер нарэшце мы спынім балаган на Беларусі. Больш за гэта, магу паведаміць, што людзі майго ведамства заўсёды ахвотна супрацоўнічаюць у гэтых справах з СС і паліцыяй і кожную хвіліну гатовы змагацца зь вінтоўкаю супраць чырвонаармейцаў. Мы — СС і цывільная ўправа — працуем тут у найлепшай згодзе. Я перадаў у распараджэньне обэр–групэнфюрэра СС фон дэм Баха 40 беларускіх прапагандыстаў і даручыў усім маім установам безумоўна судзеяць обэр–групэнфюрэру пры выкананьні яго загадаў і быць у яго распараджэньні. Сардэчнае прывітаньне і Гайль Гітлер! Заўсёды моцна адданы Вам — Вільгельм Кубэ.

Гл.: AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601759.

[174] Ліст Бранта, шэфа асабістага штабу райхсфюрэра СС, да Баха ад 17.11.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 140/2667790.

[175] Неўзабаве пасьля ўрачыстага сьвяткаваньня дня нараджэньня Кубэ, якое адбылося 13.11.1942 г., ён напісаў Ермачэнку ліст, дзе гаварылася: “...Вы можаце быць упэўнены, што ў далейшым я буду супрацоўнічаць з вамі ў духу нашага вялікага фюрэра Адольфа Гітлера над адраджэньнем беларускага краю, які перажыў такія цяжкія выпрабаваньні” // Рапарт Штраўха да Баха ад 25.7.1943... С. 81.

[176] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 3.2.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, R. 15/288.

[177] Ліст Кёрнэра да Гёрынга ад 20.2.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, R. 89/446.

хняльніка пры гэтым мог адыграць Астроўскі — ён знаходзіўся ў той час у Смаленску і аказваў дапамогу штабу Клюге і кіраўніцтву айнзацгрупы Б у змаганьні з партызанскім рухам на Смаленшчыне[178]. Кубэ і Ермачэнка былі для яго самай галоўнай перашкодай для вяртаньня ў Менск. Але асноўнымі ініцыятарамі гэтага праекту былі ўсё ж паліцыйныя ўлады.

У гэтай сытуацыі Кубэ выступіў у абарону генэральнай акругі, якой пагражала ліквідацыя. 3.2.1943 г. ён выслаў Розэнбэргу доўгі ліст, у якім прывёў грунтоўныя аргумэнты супраць скасаваньня цывільнай адміністрацыі на Беларусі. Ён падкрэсьліваў, што партызанскі рух у зоне цывільнага рэжыму значна слабейшы, чым ува Ўсходняй Беларусі, якая знаходзілася пад кіраўніцтвам Вэрмахту, што насельніцтва падначаленага яму абшару спраўна выконвае харчовыя паставы, прычым нават і ў тых раёнах, куды наведваюцца партызаны. Сярод іншых доказаў галоўны націск Кубэ рабіў на палітычныя меркаваньні. Ён пісаў пра страту нямецкага прэстыжу ў выпадку ліквідацыі цывільнай адміністрацыі на Беларусі, пра парушэньне цэласнасьці тэрыторыі цывільнай адміністрацыі на ўсходзе, папярэджваў пра небясьпеку поўнай страты даверу ў тутэйшага насельніцтва (у гэтай частцы Беларусі, на думку Кубэ, 50% жыхароў дагэтуль яго яшчэ захоўвала). У рэшце рэшт, “на доўгі час была б увогуле зьнішчана наша дзейнасьць у галіне культуры, гаспадаркі, падатковай палітыкі і адміністрацыі. Пры такім стане, — пісаў ён далей, — уводзіць пазьней цывільны рэжым яшчэ раз проста ня мела б сэнсу”. Адначасова Кубэ падкрэсьліваў патрэбу працягваць пазытыўную палітыку што да беларускага народу, ён ацэньваў яе як “безумоўна неабходную” для будучай усходняй палітыкі Нямеччыны[179].

Такім чынам, беларускае пытаньне стала справаю прэстыжу для нямецкай цывільнай адміністрацыі на ўсходзе. Таму Лёзэ і Розэнбэрг падтрымалі намаганьні Кубэ. Захаваньне ранейшага адміністрацыйнага статусу Беларусі было гарантам яе нацыянальна–тэрытарыяльнай адасобленасьці. У выпадку зьліцьця з тылавой зонай групы армій “Цэнтар”, нацыянальна як быццам бы нэўтральнай, якую на самай справе, аднак, лічылі за расейскую (Russland–Mitte), гэтая адасобленасьць страцілася б. Такім чынам, праблема вырастала да палітычнага ўзроўню. Лёзэ, які даўно пагадзіўся з Кубэ наконт неабходнасьці вылучэньня Беларусі з Остлянду і беспасярэдняга падпарадкаваньня яе ОМі, цяпер зьмяніў сваю думку. У сярэдзіне красавіка 1943 г. ён адмовіўся ад гэтага праекту, зыходзячы зь меркаваньня, што ў рамках райхскамісарыяту Остлянд абараняць пазыцыю цывільнай адміністрацыі на Беларусі будзе лягчэй[180]. Па сутнасьці гэта быў тактычны крок, зроблены, каб памагчы яго сябру, Кубэ, бо да самага канца акупацыі Лёзэ заставаўся праціўнікам злучэньня Беларусі з Прыбалтыкай.

24 траўня 1943 г. Розэнбэрг, безумоўна, з ухвалы Гітлера, выдаў адпаведны дэкрэт, у якім пацьвердзіў ранейшую прыналежнасьць Беларусі да Остлянду. Адначасова спрашчалася службовая працэдура паміж генэральным камісарам і міністэрствам акупаваных усходніх земляў. Аднак гэта не азначала наданьне самастойнасьці генэральнай акрузе Беларусі. У дэкрэце паведамлялася, што пазьней будзе ўрэгуляваная сытуацыя з паліцыяй[181]. У частцы ОМі спадзяваліся, што пасьля зьнішчэньня партызанскага руху паліцыйныя ўлады на Беларусі, падначаленай Кубэ, зноў пяройдуць у распараджэньне HSSPF Остлянду.

---

[178] Loftus J. The Belarus Secret. New York, 1982. P. 36—37.

[179] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 3.2.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 15/288.

[180] Лёзэ энэргічна супрацьдзейнічаў выхаду Беларусі з РКО. 16.4.1943 ён выслаў па гэтай справе ліст асабіста да Розэнбэрга. Гл. дэкрэт Розэнбэрга ад 24.5.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 30/372.

[181] Дэкрэт Розэнбэрга ад 24.5.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 30/372.

Гімлеру і Баху не ўдалася таксама і спроба афіцыйна абвесьціць Остлянд, у тым ліку і падпарадкаваную Кубэ частку Беларусі, зонай партызанскай вайны (Bandenkampfgebeit), што пасьля прызначэньня Баха 21.6.1943 г. шэфам антыпартызанскіх фармаваньняў пры райхсфюрэру СС забясьпечыла б яму вяршэнства ў дачыненьні да цывільнай адміністрацыі на Беларусі[182]. У той самы дзень (21.6.1943 г.) Гімлер вярнуў Баху падрыхтаваны праект загаду бяз подпісу, растлумачыўшы, што ў дадзены момант лічыць яго непатрэбным[183]. Правал праекту Гімлера абвесьціць Остлянд зонай партызанскай вайны, нягледзячы на яго ранейшую зацікаўленасьць[184], дазваляе меркаваць, што ён не атрымаў у гэтай справе падтрымкі Гітлера. У гэтым раўндзе з СС зноў выйграваў Кубэ.

У барацьбе за скасаваньне цывільнай адміністрацыі на Беларусі паліцыйныя ўлады спрабавалі падважыць палітычную рэпутацыю Кубэ, пусьцілі за ім славу правадніка беларускіх нацыяналістычных тэндэнцыяў, "супярэчных" інтарэсам Нямеччыны. Готбэрг у адным зь першых сваіх лістоў, высланых зь Менску да шэфа Галоўнай управы СС Бэргера ў сьнежні 1942 або ў студзені 1943 г., павёў атаку на дзейнасьць БНС і яе кіраўніка Ермачэнку, які "частуе бэрлінскія ўлады цалкам памылковымі нацыянальнымі і незалежніцкімі беларускімі ідэямі". Готбэрг сьцьвярджаў, што БНС адно толькі нарабіла шкоды і задурманіла насельніцтва. Асабліва ён абураўся наконт створанай пры БНС самааховы, якая, на яго думку, шчыльнымі радамі, з зброяй у руках пераходзіць на бок партызан. Готбэрг рабіў высновы: "Цалкам зразумела, што выдуманыя беларускімі эмігрантамі або салёнымі бэрлінскімі палітыкамі ідэі нацыянальнай Беларусі ў сапраўднасьці проста не існуюць", — і сьцьвярджаў, што да гэтай яго думкі пачынаюць далучацца і акруговыя камісары на Беларусі[185]. Такім чынам, Готбэрг цэліў у самыя падставы палітыкі Кубэ, прычым яго пазыцыя супадала з той, што выказаў Гуміч на згаданай канфэрэнцыі ў ОМі 8.1.1943 г. А гэта азначала, што погляды абодвух высокіх функцыянэраў паліцыі выцякалі з адной крыніцы — адносін Гімлера да Кубэ і яго палітыкі.

Пры такіх абставінах у сьнежні 1942 г. служба бясьпекі ў Менску занялася справай кіраўніцтва БНС і зборам доказаў яго "злачыннай дзейнасьці"[186]. Галоўны ўдар быў скіраваны супраць Ермачэнкі, але даказаць яго варожасьць да Нямеччыны нават для СД было задачай нялёгкай[187]. Таму даводзілася хапацца за розныя вэрсіі. Ермачэнку спрабавалі абвінаваціць у панславізьме, ідэйным цэнтрам якога была Прага (дзе ён жыў да вайны), а цяпер нібыта стала Масква[188]. Потым папракалі ў выкарыстаньні ў своека-

---

[182] SS–Befehl, 21.6.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 119/2644775.

[183] Ліст Бранта да Баха ад 21.6.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601657.

[184] Тамсама.

[185] Фрагмэнт ліста Готбэрга да Бэргера, напісанага 11.2.1943 г., які Бэргер пераслаў у дадатак да свайго ліста ад 11.2.1943 г. Ляйбранту ў ОМі, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 39/1057.

[186] У гэтай атмасфэры быў арыштаваны і закатаваны ксёндз Гадлеўскі. Іваноўскага, у сваю чаргу, абвінавачвалі ў падтрымцы прапольскага элемэнту і намерваліся сьпіхнуць з пасады менскага бурмістра. Аднак пацьверджаньня яго палітычных сувязяў зь Ермачэнкам не знайшлі. Гэтая акалічнасьць і выратавала Іваноўскага. Гл. ліст Крафта ў айнзацштаб райхсляйтэра Розэнбэрга ў Бэрліне ад 12.12.1942 г., AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/1293.

[187] Шэф СД у Менску Штраўх скардзіўся, што канчатковае вырашэньне справы Ермачэнкі заняло ў яго цэлы год // Рапарт Штраўха Баху ад 25.7.1943... С. 82.

[188] Такі варыянт разглядаўся ў сувязі з артыкулам сакратара ЦК КП(б) Беларусі Ц. Гарбунова "Белоруссия борется", апублікаваным у часопісе "Славяне" (1942. № 1. Чэрвень). Гарбуноў падкрэсьліваў адзінства славянскіх народаў у барацьбе зь нямецкім імпэрыялізмам. Гэта стала прычынаю т.зв. *Aktion Gorbunow*, якую правяло СД у Менску // Ліст Крафта ў айнзацштаб райхсляйтэра Розэнбэрга ў Бэрліне ад 12.12.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/1261.

рысьлівых інтарэсах хістаньняў і неабачлівасьці нямецкіх уладаў у галіне нацыянальнай палітыкі (намінка на Кубэ). Нарэшце, у кіраўніцтве БНС "выкрылі" левае крыло, якое "ўжо межавала зь лесам" (згадкі наконт сымпатыі да партызан). Адначасова насуперак цьверджаньням Готбэрга пра задурманьваньне насельніцтва, рапарт СД сьведчыў пра вельмі нязначны ўплыў БНС на грамадзтва[189]. Супраць Ермачэнкі распачалі кампанію таксама Астроўскі ў Смаленску і Акінчыц у Бэрліне.

Аднак усе загады службы бясьпекі разьбіваліся аб пазыцыю Кубэ: ён бараніў Ермачэнку, а заадно сябе і сваю палітыку. У гэтай сытуацыі справай Ермачэнкі занялася Галоўная ўправа бясьпекі райху (RSHA), абвінаваціўшы яго ў найцяжэйшым злачынстве — дзяржаўнай здрадзе[190]. У Менск быў высланы супрацоўнік RSHA, які хаця і знайшоў парушэньні статуту ў дзейнасьці БНС, аднак ня змог абвінаваціць у іх Ермачэнку, бо кожнае перавышэньне правоў БНС было дазволена рашэньнем Кубэ і вышэйшых цывільных уладаў Нямеччыны. Нарэшце, сьледзтва было скіравана на гаспадарчую дзейнасьць БНС, дзе былі знойдзены злоўжываньні. Такім чынам, дзякуючы пазыцыі Кубэ і ОМі Ермачэнку ўдалося ўнікнуць сьмерці, аднак 27.4.1943 г. ён быў вымушаны пакінуць Менск і вярнуцца ў Прагу, дзе яму было забаронена займацца палітычнай дзейнасьцю. Па даручэньні Розэнбэрга 16.7.1943 г. Кубэ выслаў Ермачэнку ліст з падзякаю за яго заслугі ў працы на Беларусі. Такім шляхам Розэнбэрг і Кубэ паказалі, што ўся яго справа была сфабрыкавана паліцыйнымі ўладамі ў кантэксьце палітычнага канфлікту з цывільнай адміністрацыяй на Беларусі.

У сакавіку 1943 г. Ермачэнка склікаў апошні зьезд акруговых кіраўнікоў і вайсковых рэфэрэнтаў БНС разам зь сябрамі яе Галоўнай рады і паведаміў ім, што, згодна з рашэньнем уладаў, дзейнасьць гэтай арганізацыі цяпер будзе абмяжоўвацца толькі аховай здароўя і аказаньнем матэрыяльнай дапамогі насельніцтву[191]. Гэта азначала, што ўсе не прадугледжаныя ў статуце галіны дзейнасьці БНС, яе аддзелаў, Галоўнай Рады і г.д. будуць зьліквідаваны. Спыніў сваё існаваньне інстытут мужоў даверу БНС пры генэральным і акруговых камісарыятах. У красавіку 1943 г., на падставе загаду камандзіра паліцыі парадку палкоўніка Клюпша была распушчана Беларуская самаахова (БСА)[192]. Яе салдаты перайшлі ў распараджэньне мясцовай паліцыі парадку, адзінага пакуль што "беларускага" паліцыйнага батальёну № 49 у Менску, атрадаў чыгуначнай аховы, а часткова былі вывезены на працу ў Нямеччыну. Як піша Кушаль, у некаторых раёнах ліквідацыя БСА праходзіла вельмі жорстка[193].

Вынік другога раўнду ў канфлікце Кубэ з СС быў ужо не такі адназначны, як першы. Ратуючы Ермачэнку, Кубэ абараніў сваю ўласную пазыцыю, аднак заплаціў за гэта занадта высокую цану — разбурэньне ўсяго палітычнага мэханізму (БНС і БСА), які ён будаваў ад пачатку верасьня 1941 г. Нягледзячы на нігілізм Гімлера і недавер Розэнбэрга, Кубэ разьлічваў на пасьпяховасьць сваіх ініцыятываў, якія павінны былі абудзіць беларусаў і заахвоціць іх да працы на баку Нямеччыны. Кіраўніцтва СС разбурыла гэтыя пляны, спадзеючыся толькі на грубую сілу.

**Рэванш Кубэ і разьвязка канфлікту**

Аднак Кубэ не адмовіўся ад сваёй палітычнай лініі. У адказ на паліцыйныя перасьледы Ермачэнкі ён 30.1.1943 г. запэўніў Галоўную раду БНС у сваёй нязьменнай гатоўнасьці да "цеснага супрацоўніцтва з усімі беларусамі, якія прызнаюць сэнс і непазьбеж-

[189] Meldungen.., № 38, 22.1.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 236/2725414—416.
[190] Рапарт Штраўха ад 25.7.1943... С. 82.
[191] Беларуская Газэта. 1943. 18 сакавіка
[192] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 383; Кушаль Ф. С. 9.
[193] Тамсама.

насьць новай Эўропы"[194]. Кубэ пачаў распаўсюджваць тэорыю аб нардычнай крыві беларускай нацыі, якую ён захаваў на працягу сваёй тысячагадовай гісторыі[195]. Насуперак гімлераўскай тэорыі аб расавай ніжэйшасьці славян ён спрабаваў падвесьці тэарэтычны грунт пад сваю палітычную лінію, а заадно — зьмяніць агульнае стаўленьне да беларусаў з боку расісцкіх дагматыкаў[196].

Нягледзячы на перашкоды, зьвязаныя зь дзейнасьцю партызан і рознымі сумненьнямі і агаворкамі ОМі, у першай палове 1943 г. Кубэ ажыцьцявіў шэраг праектаў, разьлічаных па–ранейшаму на абуджэньне прыхільнасьці ў мясцовага насельніцтва. У сакавіку 1943 г. ён выдаў распараджэньне аб землеўпарадкаваньні і ліквідацыі цераспалосіцы, каб стварыць эканамічна рацыянальныя сялянскія гаспадаркі і такім чынам замацаваць вынікі леташняй аграрнай рэформы. Пачалося ажыцьцяўленьне гэтага праекту[197]. Адначасова Кубэ распрацаваў і прапанаваў Розэнбэргу праект прыватызацыі зямлі ўва ўсходніх акругах генэральнага камісарыяту, мяркуючы ў будучыні стварыць на гэтых землях абаронныя вёскі. І пакуль Розэнбэрг вагаўся, Кубэ дамагаўся адпаведнага распараджэньня, прасіў асабістай сустрэчы ў Бэрліне, націскаючы на тое, што бяз хуткага дадатнага вырашэньня гэтай праблемы ня можа быць і мовы аб далейшай палітычнай і гаспадарчай дзейнасьці[198]. Можна таму лічыць, што ініцыятарам выдадзенага Розэнбэргам 3.6.1943 г. дэкрэту аб прыватызацыі зямлі на ўсходзе ў вялікай ступені быў Кубэ, бо ні Кох на Ўкраіне, ні адміністрацыя ў Прыбалтыцы ня выявілі зацікаўленасьці ў гэтай справе.

Пасьпяхова закончыліся і стараньні Кубэ па адкрыцьці ў Менску Мэдыцынскага інстытуту — першай вышэйшай навучальнай установы падчас нямецкай акупацыі на Беларусі. Пасьля доўгіх разваг Розэнбэрг пагадзіўся 23 сакавіка на адкрыцьцё менскага інстытуту і растлумачыў, што робіць гэта дзеля падтрыманьня належнага ўзроўню аховы здароўя на Беларусі. Розэнбэрг зазначыў, што колькасьць студэнтаў павінна будзе адпавядаць патрэбам цэлай генэральнай акругі, г.зн. таксама і ўсходняй часткі Беларусі, якая знаходзілася пад вайсковай адміністрацыяй[199]. Такім чынам, інстытут павінен быў стаць даволі вялікай установай. Яго рэктарам спачатку быў прызначаны дэкан мэдыцынскага факультэту ўнівэрсытэту ў Фрайбургу прафэсар Э.Т. Наук, але неўзабаве яго замяніў беларус, прафэсар Мікалай Сьцяпанаў. Інстытут распачаў сваю працу 13.5.1943 г., але ня ў Менску, а ў Магілёве, пасьля адпаведнай дамоўленасьці Кубэ з вайсковымі ўладамі[200]. Адкрыцьцё інстытуту мела вялікае значэньне. Па–першае, гэта сьведчыла пра новае стаўленьне ОМі да справы вышэйшай адукацыі на Беларусі, а па–другое, гэта быў добры прэцэдэнт для стварэньня наступных вышэйшых навучальных установаў[201].

Варта спыніць увагу на ўзьнікненьні Саюзу беларускай моладзі (СБМ)[202]. У першай

[194] Беларуская Газэта. 1943. 4 лютага.

[195] Беларускі народны каляндар на год 1944. Менск, 1944. С. 92.

[196] Меркаваньне аб прыналежнасьці беларусаў да нардычнай расы выказвалася на старонках органа РКО "Остлянд". Публіцыст В. Эссэн сьцьвярджаў, што беларусы, дарма што гавораць на славянскай мове, у мінулым паглынулі шматлікія балтыйскія плямёны і нават — нямецкія элемэнты // Ostland. Riga, 1944. Februar. № 8.

[197] Голас Вёскі. 1943. 26 сакавіка.

[198] Тэлекс Кубэ да Мэера ад 20.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 21/555.

[199] Тэлекс Розэнбэрга да Лёзэ ад 23.3.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 39/098.

[200] Раніца. 1943. 27 красавіка; 1945. 7 студзеня. У канцы 1943 г. інстытут эвакуаваўся ў Новую Вялейку. 10.6.1944 г. адбыўся першы і апошні выпуск яго навучэнцаў, 32 чалавекі. У 1944/45 г. ён працягваў сваю працу ў Нямеччыне.

[201] Варта прыгадаць тыя намаганьні, што прыклаў В. Іваноўскі для адкрыцьця тэхналягічнага інстытуту і ўнівэрсытэту ў Менску.

[202] Сярод працаў пра СБМ, што выйшлі пасьля выданьня гэтае манаграфіі д–ра Ю. Туронка, трэба вылучыць кнігу Л. Юрэвіча "Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу беларускае моладзі", што ў 2001 г. выйшла ў бібліятэцы часопіса "Беларускі гістарычны агляд". — *А.С.*

фазе акупацыі Розэнбэрг не прадугледжваў стварэньня моладзевых арганізацыяў на акупаваных усходніх тэрыторыях. Толькі 3.6.1942 г. ён выдаў дэкрэт аб стварэньні спэцыяльнага моладзевага аддзелу ў ОМі. Дэкрэт дазваляў ствараць такія аддзелы і ў генэральных камісарыятах прыбалтыйскіх краін для нагляду дзейнасьці эстонскай, латыскай і літоўскай арганізацыі Беларусі і Украіне[203].

Мясцовыя нямецкія акупацыйныя ўлады па–рознаму ўспрынялі ідэю стварэньня краёвых моладзевых арганізацыяў: яе падтрымалі генэральныя камісары ў Эстоніі і Латвіі, і ў выніку там былі арганізаваны адпаведныя моладзевыя саюзы. Затое не пагадзіўся на гэта генэральны камісар у Коўне фон Рэнтэльн, так што стварыць літоўскую арганізацыю не ўдалося. Не цікавіўся гэтым і Кох на Украіне. Затое Кубэ быў вялікім прыхільнікам стварэньня беларускай моладзевай арганізацыі — ён бачыў у гэтым важны сродак ажыцьцяўленьня ўласнай палітычнай канцэпцыі. Таму ён паблажліва ставіўся да моладзевай арганізацыі, якая неафіцыйна была створана ў Глыбоцкай акрузе восеньню 1941 г., і не перашкаджаў працы, якую праводзіла ў гэтай галіне БНС. Аднак для стварэньня агульнакраёвай афіцыйнай арганізацыі патрэбна была згода Розэнбэрга і некалькімесячныя захады Кубэ для яе стрыманьня.

Таму толькі з прыходам 1943 г. пачалася падрыхтоўка для стварэньня СБМ. У Бэрліне гэтым заняўся моладзевы аддзел ОМі. Пры ўдзеле Акінчыца была наладжана падрыхтоўка акруговых кіраўнікоў СБМ (часткова іх набралі сярод ваеннапалонных беларусаў — афіцэраў Чырвонай Арміі), напісаны праект статуту і праграмныя тэзы, а таксама прапагандысцкія матэрыялы. Адначасова быў створаны моладзевы аддзел пры генэральным камісарыяце ў Менску. У ім працавалі моладзевы кіраўнік Вільгельм Шульц і кіраўнічка Грызэман. Пад беспасярэднім наглядам Кубэ яны заняліся арганізацыйнай падрыхтоўкай. Былі адчынены два першыя навучальныя цэнтры СБМ у Альбярціне (для хлопцаў) і ў Драздох, што пад Менскам (для дзяўчат). Тут праходзілі падрыхтоўку мясцовыя дзячы гэтай арганізацыі.

22.6.1943 г. падчас урачыстасьці ў Менскім гарадзкім тэатры Кубэ абвясьціў аб стварэньні СБМ. Яго структура была зроблена на ўзор гітлерюгенду (HJ) і грунтавалася на прынцыпе фюрэрства. Так, галоўным органам СБМ быў кіраўнічы штаб, яго шэфам прызначаны Міхась Ганько, беспасярэдне падначалены Кубэ[204]. Працаю сярод дзяўчат на цэнтральным узроўні кіравала доктар Надзея Абрамава. Кіраўнічаму штабу СБМ падпарадкоўваліся акруговыя кіраўнікі, а ім, у сваю чаргу, — павятовыя, яны кіравалі атрадамі (для хлопцаў) і гурткамі (для дзяўчат) у валасьцях, вёсках, школах і г.д. Да СБМ магла належаць беларуская моладзь ад 10 да 20 гадоў[205].

У ліпені 1943 г. СБМ атрымаў свой друкаваны орган — штомесячнік “Жыве Беларусь”. Выходзіла і навучальна–інструкцыйная літаратура — “Вучэбны лісток” і “Дзёньнікі загадаў”. Улетку 1943 г. працягвалася падрыхтоўка інструктарскіх кадраў, у прыватнасьці, маладых настаўнікаў, якія павінны былі займацца арганізацыяй школьных гурткоў СБМ ад пачатку 1943/44 навучальнага году. Важную навучальна–прапагандысцкую ролю адыгрывалі экскурсіі актывістаў СБМ у Нямеччыну — тут беларуская моладзь знаёмілася з мэтадамі арганізацыйнай працы гітлерюгенду, выступала з канцэртамі беларускіх песень. Яе прымалі ў ОМі і г.д. У рамках кантактаў зь нямецкай моладзьдзю варта адзначыць зваротны візыт шчэцінскага “Карл–Лёвэ–Хора” на Беларусь. З дапамогай кіраўніцтва гітлерюгенду “на многа мільёнаў райхсмарак” у Нямеччыне была закуплена форма для сяброў СБМ, якую яны маглі набыць за даволі невялікую плату[206].

[203] Дэкрэт Розэнбэрга ад 3.6.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–175, г. 237/2726178.

[204] Дэкрэт Кубэ аб стварэньні СБМ // Раніца. 1943. 11 ліпеня.

[205] Статут СБМ // Тамсама.

[206] Ганько М. Моладзь Новае Беларусі // Беларускі народны каляндар на год 1944. Менск, 1944. С. 59; Herzog R. Besatzungsverwaltung in den besetzten Ostgebieten — Abteilung Jugend. Tübingen, 1960. S. 27.

Паводле статуту СБМ, мэта гэтай арганізацыі — узгадаваць “пасьлядоўных будаўнікоў Новае Беларусі і падрыхтаваць іх да іхніх будучых заданьняў у народзе”. Магістральным кірункам у выхаваўчай працы павінна было стаць “вызваленьне беларускай моладзі ад варожых і шкодных уплываў, яе маральнае адраджэньне й выхаваньне ў духу Новай Беларусі пад правадырствам нацыянал–сацыялістычнай Нямеччыны”. Таму акцэнт пераносіўся на патрыятычнае выхаваньне моладзі, на выкараненьне гістарычна абумоўленай рабскай псыхалёгіі, разьвіцьцё пачуцьця грамадзкага абавязку, адказнасьці, працавітасьці і да т.п. Такі выхаваўчы кірунак быў разьлічаны на тое, каб памагчы моладзі “адчуць сваю адказнасьць за лёс і дабрабыт айчыны і заўсёды быць гатовай працаваць для свайго народу і краю й служыць ім”. Статут трымаў на далёкім прыцэле паступовае перавыхаваньне ўсяго грамадзтва ў духу сваіх праграмных ідэяў.

Новая арганізацыя была важным дасягненьнем Кубэ. Ганько сьцьвярджаў нават, што гэта ўвогуле было самае вялікае дасягненьне за два гады існаваньня акупацыйнай цывільнай адміністрацыі на Беларусі[207]. У верасьні 1943 г. дзейнасьць СБМ распаўсюдзілася і на тэрыторыю Усходняй Беларусі, што знаходзілася ў зоне вайсковай адміністрацыі. Па сутнасьці, СБМ стаў першым і пакуль што адзіным прызнаным у Бэрліне грамадзкім форумам, які мог праводзіць шырокую выхаваўчую працу ў беларускім нацыянальным духу — лёзунгі “Новай Эўропы” гэтаму практычна не перашкаджалі. З такога пункту гледжаньня нічога падобнага на Беларусі ніколі не існавала. Рост гэтай арганізацыі з восені 1943 г. сьведчыў пра тое, што ідэя Кубэ трапіла ўва ўрадлівую глебу. Савецкае падпольле вельмі варожа ставілася да СБМ, аднак змагацца зь ім было ня так проста: па–першае, гэтаму перашкаджала малалецтва яго ўдзельнікаў, а па–другое, дзейнасьць яго праходзіла збольшага ў вялікіх гарадох і мястэчках — партызаны ня мелі туды шырокага доступу. Сымбалічна, што насуперак настойлівай падпольнай прапагандзе толькі тры кіраўнікі СБМ пакінулі яго шэрагі і перайшлі да партызан[208].

Стварэньне СБМ дало пачатак новай прапагандысцкай кампаніі, маўляў, афіцыйны дазвол на яго арганізацыю сьведчыць пра тое, што Гітлер расцэньвае беларускі народ як дадатны элемэнт “Новай Эўропы”[209], што Нямеччына прызнае за гэтым народам права на будучыню і пачэснае месца ў Эўропе і выказвае шчыры давер і сымпатыю да беларускай моладзі. Адначасова высьмейвалася “бальшавіцкая гістэрыя” вакол уяўнай калянізацыі і нямецкага ўціску на Беларусі[210]. У гэтай атмасфэры Кубэ выступіў з новым заклікам, які ўпершыню прагучаў зь ягоных вуснаў падчас урачыстага абвяшчэньня СБМ: “З Адольфам Гітлерам да самавызначэньня беларускай нацыі!”[211] Нельга, аднак, гэтую фразу і ўсю праведзеную Кубэ кампанію расцэньваць выключна як прапаганду. У той гульні, якую Кубэ разыгрываў перад вышэйшым бэрлінскім кіраўніцтвам з эсэсаўска–паліцыйнай апазыцыяй, стварэньне СБМ стала важкім аргумэнтам на карысьць яго палітычнай лініі. Пазьней гэта дало права гаўляйтэру сьцьвярджаць, што яго палітыка адпавядае пазыцыі вярхоўнага кіраўніцтва Нямеччыны.

Выданьне Ермачэнкі і ліквідацыя дадатковых паўнамоцтваў БНС перакрэсьлілі надзеі Кубэ стварыць на базе гэтай арганізацыі цэнтральны орган беларускага самакіраваньня. Кубэ не адмовіўся ад гэтай ідэі, аднак яе ажыцьцяўленьне выглядала цалкам безнадзейна. Праўда, распараджэньне Розэнбэрга ад 24.4.1942 г. дазваляла генэральным камісарам Остлянду самастойна выдаваць праўныя акты, але толькі ў тых галінах, якія не падлягалі кампэтэнцыі вышэйшых уладаў (RKO, OMi) і наконт якіх не існавала выразных дырэктываў[212]. У любым выпадку Кубэ ня мог стварыць такі орган бяз згоды

[207] Ганько М. Моладзь...
[208] Herzog. S. 25.
[209] Адозва Ганька // Баранавіцкая Газэта. 1943. 22 чэрвеня.
[210] Ганько М. Моладзь...
[211] Раніца. 1943. 11 ліпеня.
[212] Verordnungsblatt des Reichsministers für die besetzten Ostgebiete, 30.4.1942, № 5.

Розэнбэрга, а той, у сваю чаргу, — без дазволу Гітлера[213]. І гэтае становішча не мянялася, нягледзячы на ўсе захады Розэнбэрга і вайсковага камандаваньня. У гэтай сытуацыі Розэнбэрг ня мог дазволіць стварэньня нацыянальнага камітэту ці кансультатыўнай рады нават на Ўкраіне, хоць гэтая тэрыторыя лічылася важнейшай[214].

Таму ўзьнікненьне беларускага Камітэту даверу, званага часьцей Радай даверу, якое Кубэ правёў 27.6.1943 г., заслугоўвае ня меншай увагі, чым стварэньне пачаткова не прадугледжанай для Беларусі моладзевай арганізацыі. Аднак цяпер, пасьля сумнага экспэрымэнту з БНС і Ермачэнкам, Кубэ не жадаў рызыкаваць і ставіць кіраўніцтва перад зьдзейсьненым фактам — такое дасягненьне апазыцыя лёгка магла перакрэсьліць. Таму на стварэньне Камітэту даверу ён дабіўся згоды ня толькі ў Лёзэ, але і ў самога Розэнбэрга, аб чым двойчы падкрэсьліваў у сваіх выступленьнях[215]. Паўстае пытаньне, што магла азначаць гэтая згода? Асабліва дзіўна яна выглядала на фоне агульнай нэгатыўнай бэрлінскай палітыкі і забароны Розэнбэргам украінскага камітэту. Такое пытаньне павінна быць істотным яшчэ зь дзьвюх прычын: па–першае, ніякія распараджэньні ў гэтай справе не публікаваліся ўва ўрадавых выданьнях Кубэ, Лёзэ ці Розэнбэрга, і, па–другое, адразу пасьля стварэньня Камітэту даверу і прынагоднай урачыстасьці ў мясцовым друку пастараліся не надаваць яго дзейнасьці вялікага розгаласу.

Адказ на гэтыя пытаньні крыецца ў самім характары Камітэту даверу. Фармальна ён не ўважаўся за асобную беларускую ўстанову, а быў толькі складовай часткаю апарату генэральнага камісарыяту, таму для яго ня трэба было праграмы, статуту і г.д. Камітэт даверу быў органам накшталт адміністрацыйнай камісіі, адзінаю яго задачай сталася апрацоўка і перадаваньне акупацыйным уладам пажаданьняў і прапановаў, ён меў права дарадчага голасу ў пасяджэньнях генэральнага камісарыяту пад кіраўніцтвам Кубэ або яго намесьніка, а таксама мог зьбірацца на свае ўнутраныя нарады[216]. Такім чынам, Кубэ ўдалося спрытна абмінуць самую далікатную прынцыповую перашкоду: Камітэт ня быў фармальна беларускай установай і яго нельга было трактаваць як нацыянальнае прадстаўніцтва, таму і Розэнбэрг ня мог выставіць супраць яго ніякіх закідаў. А па–другое, зрабіўшы Камітэт часткаю свайго апарату, Кубэ засьцярог яго ад паўтарэньня лёсу ранейшага кіраўніцтва БНС.

У тагачасных абставінах гэта была адзіная магчымасьць абмінуць генэральную лінію бэрлінскай палітыкі, што адлюстроўваў і асабовы склад Камітэту даверу. Усяго ў ім налічвалася 16 чалавек. Дзевяць зь іх былі прадстаўнікамі мясцовай беларускай адміністрацыі, якіх акруговыя камісары спэцыяльна вылучылі для працы ў Камітэце — дагэтуль яны не адыгрывалі важнай ролі ў палітычным жыцьці[217]. Апрача таго, Кубэ запрасіў туды яшчэ шэсьць дзяячоў цэнтральнага ўзроўню: менскага бурмістра Вацлава Іваноўскага (старшыня Камітэту даверу), новапрызначанага кіраўніка БНС і адначасова прадстаўніка Баранавіцкай акругі Юр'я Сабалеўскага (намесьнік старшыні), кіраўніка Цэнтральнага бюро прафсаюзаў Канстанціна Рабушку, кіраўнікоў СБМ Міхася Ганька і Надзею Абрамаву, а таксама Аўгена Калубовіча[218]. 16–ты чалец Камітэту ніколі публічна не называўся. Паводле Івана Новікава, гэта быў сам Кубэ — фактычны

[213] Цікава, што гэтае распараджэньне Розэнбэрга ад 24.4.1942 г. фон Готбэрг успрыняў як праўную падставу для стварэньня ў сьнежні 1943 г. Беларускай цэнтральнай рады, хоць паўнамоцтваў на ўтварэньне такога органа яно не давала (гл. наступны разьдзел).

[214] Dallin. P. 564.

[215] Беларуская Газэта. 1943. 27 красавіка; 1943. 3 ліпеня.

[216] Ліст Кубэ да Лёзэ ад 12.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 23/473.

[217] Гэта былі: Канстанцін Гуло (Менская акруга), Сымон Цытовіч (Слонімская), Уладзімер Казёл (Глыбоцкая), Віктар Трахімовіч (Барысаўская), Цімафей Гаргесгаймер (Ганцавіцкая), Мадэст Яцкевіч (Лідзкая), Язэп Душэўскі (Слуцкая), Булак (Наваградзкая), Ян Галяк (Вялейская) // Беларуская Газэта. 1943. 3 ліпеня.

[218] Тамсама.

кіраўнік Камітэту[219]. Такая вэрсія вельмі верагодная, асабліва калі ўлічыць характар Рады даверу і тыя намаганьні, што прыкладаў Кубэ, каб падстрахаваць дзейнасьць Камітэту.

Камітэт складаўся з новых людзей, якія не ўваходзілі раней у каманду Ермачэнкі. Напэўна, гэта была яшчэ адна перасьцярога перад нападкамі СС. Затое цяжка зразумець, зь якіх меркаваньняў зыходзіў Кубэ, запрасіўшы Вацлава Іваноўскага на пасаду фармальнага старшыні Камітэту. Ён быў арганізатарам і кіраўніком беларускага незалежніцкага канспірацыйнага руху і спрабаваў наладзіць супрацоўніцтва з польскім падпольлем. Беларускія дзяячы зь ліку прыхільнікаў Астроўскага (сярод іншых — Іван Касяк[220]) рабілі на яго даносы, так што Іваноўскага трымала на прыцэле СД. Аднак Кубэ не пераацэньваў папярэджаньняў службы бясьпекі, хоць поўнага даверу да Іваноўскага ён таксама ня меў. Напэўна, дзеля страхоўкі гаўляйтэр даручыў яму гэтую пасаду часова — усяго на адзін год[221].

У сваім выступленьні з нагоды стварэньня Камітэту даверу Кубэ паўтарыў сваю тэзу, што "мы прыбылі сюды як пераможцы, але пераможцы бальшавізму, а не беларусаў — для іх мы — вызваліцелі". Ён заклікаў сяброў Камітэту так наладзіць працу зь беларускай нацыяй, каб яна "апынулася на ўзроўні эўрапейскіх нацыяў". Камітэт павінен быў прысьвяціць асаблівую ўвагу тром праблемам: разьвіцьцю школьніцтва і выхаваньню моладзі, аднаўленьню гаспадаркі і забесьпячэньню насельніцтва прадуктамі харчаваньня і, нарэшце, нямецка–беларускаму супрацоўніцтву ў барацьбе з партызанамі. "Уласнасьць на зямлю, — гаварыў ён пра дэкрэт Розэнбэрга, — гэта толькі шматок паперы датуль, пакуль гэтую зямлю нельга будзе абараніць ад бандытаў"[222].

Камітэт даверу павінен быў распрацаваць свае прапановы па трох пазначаных праблемах, каб абмеркаваць іх на сумесным пасяджэньні зь нямецкімі ўладамі. Паўстае пытаньне: якіх прапановаў мог чакаць Кубэ ад Камітэту? Усе гэтыя справы ён ня толькі выдатна ведаў, але быў нават ініцыятарам некаторых зь іх, прычым досьвед з самааховай найвыразьней сьведчыў аб залішняй ініцыятыве нямецкай цывільнай адміністрацыі і беларускіх дзяячоў што да барацьбы з партызанамі. Камітэт ня мог тут нічога новага ані прапанаваць, ані зрабіць, бо, у адрозьненьне ад БНС, ён ня меў нават свайго выканаўчага апарату. Кубэ выдатна аб гэтым ведаў і на самай справе не разьлічваў на эфэктыўнасьць працы новастворанага органа.

Роля Камітэту даверу, відаць, была не такая, якую Кубэ апісваў Розэнбэргу, каб дабіцца згоды на яго стварэньне. Гаўляйтэр трактаваў яго як сымбалічнае, пакуль што, беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва, якое ў спрыяльных умовах Бэрлін мог бы зацьвердзіць афіцыйна, ператварыўшы яго ў орган цэнтральнага самакіраваньня. Такім чынам, нягледзячы на правал зь Ермачэнкам, Кубэ не адмовіўся ад сваіх ранейшых намераў, хоць у цяперашняй сытуацыі ня мог іх ажыцьцявіць "з прычын палітычных і асабістых", аб чым і прызнаваўся Лёзэ[223]. Усе сапраўдныя задачы новага органа былі наперадзе — трэба было пакуль што гуртаваць вакол яго нацыянальныя сілы і чакаць моманту зьмены ў палітычнай каньюнктуры.

Падобную ролю, толькі ў галіне вышэйшай адукацыі і арганізацыі будучых навуковых дасьледаваньняў, павінна было адыграць створанае 27.6.1943 г. у Менску Беларускае навуковае таварыства. У параўнаньні зь мінулагодняй няўдачай яго арганізатары цяпер мелі на руках больш важкія фармальныя падставы: Розэнбэрг выдаў дазвол на адкрыцьцё Мэдыцынскага інстытуту. Таму, апрача мясцовых уладаў, у стварэньні БНТ

[219] Новікаў І. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску. Мінск, 1964. С. 183.

[220] Галяк Л. Успаміны. ЗША, 1983. Т. 2. С. 62; Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Успаміны. Таронта, 1976. С. 92; Касяк І. Заўвагі да артыкулу аб Іваноўскім // Беларуская Думка, 1984. № 29.

[221] Беларуская Газэта. 1943. 3 ліпеня.

[222] Тамсама.

[223] Ліст Кубэ да Лёзэ ад 12.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 23/473.

прынялі ўдзел доктар Штэгман (дарадца Лёзэ па навукова–дасьледчых праблемах) і Нойгэбаўэр (кіраўнік аддзелу культуры RKO). Як сказана было ў заснавальніцкім акце, мэтаю БНТ ёсьць дапамога ў арганізацыі навуковай працы, усе яго намаганьні павінны скіроўвацца на разьвіцьцё і падтрымку беларускай навукі і культуры. Меркавалася стварыць асобныя сэкцыі таварыства ў галінах беларусазнаўства, прыроды, матэматыкі, тэхнікі, літаратуры і мастацтва. БНТ павінна было праводзіць тэарэтычныя, чыста навуковыя дасьледаваньні, вырашаць праблемы пэрспэктыўнай адбудовы Беларусі і, урэшце, выконваць беспасярэднія ваенныя заданьні[224].

У прэзыдыюм Беларускага навуковага таварыства ўвашлі прафэсары: Шыперка, Шкуцька, Трысмакаў, Кавалёў і Бухвалаў, старшынём быў абраны Іваноўскі, а яго намесьнікамі — Лыноўскі і Масевіч. Ганаровым старшынём стаў Кубэ. Штэгман з RKO абяцаў аказаць падтрымку дзейнасьці таварыства, у прыватнасьці, дапамагчы яму з здабыцьцём належнай літаратуры і сувязяў зь нямецкімі навукоўцамі. Меркавалася наладзіць цеснае супрацоўніцтва БНТ з Цэнтрам вывучэньня Ўсходу (Zentrale für Ostforschung)[225].

Кубэ добра разумеў, што на фоне зьверстваў СС і паліцыі ў часе карных апэрацыяў бляснуць, не закранаючы грамадзкай сьвядомасьці, усе яго дадатныя распачынаньні. З гэтай прычыны, а таксама ў інтарэсах гуманнасьці, ён распачаў барацьбу з СС у абарону мірнага насельніцтва. Паколькі распараджацца паліцыйным апаратам Кубэ ня мог, ён выкрываў злачынствы карных атрадаў і намагаўся давесьці гэтыя факты да ведама Розэнбэрга і Гітлера, досыць наіўна разьлічваючы, што такое ўмяшальніцтва дасьць нейкі плён. Акруговым камісарам ён разаслаў сакрэтны цыркуляр, у якім загадваў дасылаць яму падрабязныя і непрыхарошаныя зьвесткі пра дзейнасьць паліцыйных атрадаў[226].

Праз пасярэдніцтва RKO 24.3.1943 г. Кубэ пераслаў Розэнбэргу рапарт камісара Менскай акругі доктара Людвіка Эрэнляйтнэра, які пэўны час заступаў свайго калегу ў Слонімскай акрузе, і прывёў дакладныя вынікі карнай акцыі, праведзенай там Готбэргам. Напэўна, гэта былі апэрацыі "Гамбург" — "Альтона". У рапарце паведамлялася аб забойствах і масавай дэпартацыі ў Нямеччыну вясковых жыхароў двух раёнаў. Нягледзячы на жорсткасьць, экспэдыцыя не дала вынікаў: партызанскі рух у гэтай зоне ня толькі ацалеў, але і ўзмацніўся, бо ў лясы паўцякала запалоханае насельніцтва. Эрэнляйтнэр, такім чынам, пацьвердзіў думку Кубэ: самі па сабе паліцыйныя захады не маглі дапамагчы ў вырашэньні партызанскай праблемы[227]. Напэўна, гэта быў першы рапарт такога зьместу. Чыноўнікаў RKO ён увагнаў у немалы клопат — амаль два месяцы яго разглядалі аж у "чатырох розных інстанцыях" і зьбіраліся нават вярнуць Кубэ, пакуль пад канец траўня Лёзэ ня вырашыў усё ж пераслаць яго ў Бэрлін[228].

Рапарт Эрэнляйтнэра быў першым у цэлай сэрыі абвінавачваньняў СС у злачынствах супраць мірнага насельніцтва. На падставе рапартаў, атрыманых, між іншым, ад супрацоўнікаў менскага генэральнага камісарыяту, Кубэ даводзіў да ведама вышэйшых уладаў канкрэтныя факты зьверскага абыходжаньня карнікаў з цывільнымі жыхарамі. Так, паводле інфармацыі, атрыманай ад кіраўніка Менскай акругі БНС Юліяна Саковіча, ён апісваў, як паліцыйныя атрады палілі жыўцом загнаных у хаты сялян[229], паведам-

[224] Grueber E. Gründung einer "Weissruthenischen Wissenschaftlichen Gesellschaft" // Ostland. Riga. August. 1943. № 2. S. 30.
[225] Тамсама; Раніца. 18.7.1943.
[226] Рапарт Штраўха ад 25.8.1943... С. 84.
[227] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 24.3.1943 з дадаткам — справаздачай Эрэнляйтнэра аб палітычным становішчы ў Слоніме ад 21.3.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/556—557.
[228] Унутраная карэспандэнцыя РКО ў сувязі з рапартам Эрэнляйтнэра, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/567—568.
[229] Рапарты Ляўха ад 2.6.1943 і Лянге ад 31.5.1943 // Trials of War Criminals before the Nuernberg Military Tribunals vol. XIII. Washington 1952. P. 518, 521.

ляў пра выпадкі, калі ў шпіталь зьвярталіся параненыя, недабітыя ў часе расстрэлаў — яны выкарасквaліся з магіл і шукалі лекарскай дапамогі[230]. Ня раз Кубэ зьвяртаўся да кіраўніцтва пры правядзеньні апэрацыі "Котбус". 5 чэрвеня ён падаваў зьвесткі, што сярод 5000 забітых, якія нібыта супрацоўнічалі з партызанамі, шмат жанчын і дзяцей. Гаўляйтэр папярэджваў, што палітычныя вынікі гэтых акцыяў катастрафічныя[231]. Маючы перад сабой канчатковыя зьвесткі па гэтай апэрацыі, 29 чэрвеня ён пісаў Розэнбэргу, што ў выніку яе было зьнішчана 13 000 "ворагаў" і пры гэтым здабыта толькі 950 вінтовак, — такім чынам, 90% гэтых ворагаў — проста бяззбройныя людзі[232].

Я прапаную, — пісаў Кубэ да Лёзэ яшчэ 3 чэрвеня, — папрасіць, каб райхсміністар па справах акупаваных усходніх земляў прадставіў гэтую справу ў Вярхоўнай стаўцы фюрэра. Такія рэчы маюць вялікае палітычнае значэньне. Калі стаўленьне да мясцовага насельніцтва акупаваных усходніх земляў ня зьменіцца і надалей, прычым ня толькі ў паліцыі, але і ў Вэрмахце, і ў ОТ (*Organisation Todt*), дык на наступную зіму можам прычакаць не партызан, а бунту па ўсім краі...[233]

У іншым лісьце ад 3 чэрвеня Кубэ паказаў на адказнасьць Готбэрга як кіраўніка карных апэрацыяў, якія, акрамя катастрафічных палітычных і эканамічных вынікаў, ня толькі не ўплываюць на зьмяншэньне партызанскіх сілаў, але, наадварот, выклікаюць іх рост[234].

Камітэт даверу таксама выступіў у абарону насельніцтва. Ён сабраў зьвесткі аб рэпрэсіях, праведзеных карнымі атрадамі, па ўсіх акругах генэральнай акругі Беларусі. Сярод іх — славуты рапарт Кушаля пра апэрацыю "Герман" у Пяршайскай воласьці Валожынскага павету: у другой палове ліпеня тут было спалена жыўцом насельніцтва 10 вёсак разам з сваімі будынкамі[235]. З пратэстам супраць такой дзейнасьці карных атрадаў Камітэт выступіў 23.8.1943 г. на сумеснай сэсіі зь нямецкімі цывільнымі і паліцыйнымі ўладамі, выкарыстаўшы ў якасьці доказаў вышэй прыведзеныя факты. Ён зьвярнуўся да нямецкіх уладаў з просьбай: 1) спыніць паленьне вёсак і рэпрэсіі супраць нявінных людзей; 2) стварыць умовы і рэальныя гарантыі бясьпекі ад рэпрэсіяў для асобаў, якія вярнуліся б зь лесу дадому; 3) склікаць сумесную беларуска–нямецкую камісію для распрацоўкі належных інструкцыяў па гэтым пытаньні і кантролю за іх выкананьнем[236].

Паводле сьведчаньня Калубовіча, былога чальца Камітэту даверу і ўдзельніка той сэсіі, пратэст і прапановы Камітэту ўсхвалявалі прысутных немцаў.

За сталамі кіраўнікоў службы бясьпекі й СД, а яшчэ болей — афіцэраў войскаў СС, ахоўнай паліцыі і жандармэрыі, узьнімаліся выкрыкі, гоман, пратэсты абурэньня. Калі інж. А. Русак скончыў свой рэфэрат і перадаў генэральнаму камісару Кубэ мэмарыял, выступіў ген. Цэнэр

---

[230] Рапарт Лянге ад 1.6.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601596.
[231] Ліст Кубэ да Розэнбэрга (via RKO) ад 5.6.1943 // IMGN, Bd. XXXVIII, 135–R, S. 373.
[232] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 29.6.1943. // Müller, Okkupation — Raub — Vernichtung... S. 151.
[233] Ліст Кубэ да Розэнбэрга (via RKO) ад 3.6.1943 // Trials... Vol. XIII. P. 520.
[234] Другі ліст Кубэ да Розэнбэрга (via RKO) ад 3.6.1943 // Тамсама. С. 517.
[235] Рапарт Кушаля да старшыні Рады даверу ад 6.8.1943 быў зьмешчаны цалкам у зборніку дакумэнтаў "Преступные цели — преступные средства" (Москва, 1968. С. 142). Тым часам у кнізе В. Раманоўскага "Саўдзельнікі ў злачынствах", выдадзенай у Менску, была зьмешчана толькі адпаведна падабраная частка гэтага рапарту (С. 146), каб падмацаваць цьверджаньне, што Кушаль "6 жніўня 1943 г. з захапленьнем даносіў кіраўніку т.зв. "рады даверу" пра крывавыя расправы над мясцовым насельніцтвам у мясьціне, дзе ён нарадзіўся" (С. 153). Справа ў тым, што Кушаль нарадзіўся ў Пяршаях, а ў суседняй вёсцы Доры загінулі яго браты, спаленыя разам з царквою, куды іх сагналі карнікі. З дапамогаю гэтай фальшыўкі Раманоўскі імкнуўся падаць свайго палітычнага праціўніка Кушаля ў найгоршым сьвятле.
[236] Калубовіч А. Праф. Вацлаў Іваноўскі і Беларуская рада даверу // Беларуская Думка. 1983. № 27—28. С. 13—14.

і спрабаваў апраўдаць карныя акцыі супраць вёсак. Аднак мы былі зьдзіўленыя, калі Кубэ, насуперак ген. Цэнэру, пачаў перад Радаю даверу апраўдвацца, заявіўшы, што ён у гэтым не вінаваты, што гэта робяць незалежныя ад яго СД і вайсковыя групы і што сам ён быццам бы скардзіўся на іх у Бэрлін.
Нашыя пабойваньні арышту Рады даверу ня спраўдзіліся. Праф. Іваноўскаму не прыйшлося чытаць Дэклярацыі незалежнасьці, якая ляжала ў нутраной кішэні ягонага пінжака. Але даўжэйшы час нас не пакідала думка, што немцы яшчэ могуць з намі расправіцца. Мы не выключалі таксама мажлівасьці, што органы СД і СС не даруюць таксама і В. Кубэ[237].

У жніўні 1943 г., хутчэй за ўсё пад канец месяца, Кубэ выслаў да Лёзэ наступны, на гэты раз самы падрабязны свой рапарт, дзе прывёў супрацьлеглыя мэтады акупацыі ў Беларусі і канфлікт цывільных і паліцыйных уладаў, які ўлетку 1943 г. перайшоў у найвастрэйшую сваю фазу. Адначасова гэта быў апошні погляд Кубэ на дадзеную справу, і таму варта прывесьці шырэйшыя яго фрагмэнты, якія вымоўна сьведчаць самі за сябе[238]:

...Гэта — вынік псыхалягічных памылак, што дапускаюць з насельніцтвам у часе паліцыйных акцыяў атрады, якія іх праводзяць. Фатальную ролю адыгрывае тут асабліва імя Дырлевангера, бо гэты чалавек падчас сваёй няшчаднай карнай экспэдыцыі (Vernichtungsfeldzug) супраць мірнага насельніцтва сьвядома не прымае пад увагу аніякіх палітычных неабходнасьцяў. Побач з тым мэтады Трыццацігадовай вайны стасуюцца часта так, што цьверджаньні нямецкай цывільнай адміністрацыі пра жаданае супрацоўніцтва зь беларускім народам гучаць як мана. Масавыя расстрэлы або паленьне жанок і дзяцей ня маюць нічога супольнага з гуманным правядзеньнем вайны. Колькасьць вёсак, зьнішчаных у часе вялікіх паліцыйных апэрацыяў, перавышае колькасьць вёсак, спаленых партызанамі. Натуральна, для паленьня вёсак заўсёды знойдуцца чыста тэхнічныя апраўданьні: паводле цяперашніх інструкцыяў, дастаткова, каб у нейкай вёсцы прагучала некалькі стрэлаў, каб выкарыстаць самыя жорсткія сродкі. Калі такімі мэтадамі дзейнічаць і надалей, няма чаго разьлічваць на ўтаймаваньне краю, нават калі сілы паліцыі павялічацца ў дзесяць разоў. Тэрыторыя паступова абязьлюдзее і для належнага гаспадараньня ў інтарэсах нямецкага райху амаль цалкам будзе страчаная. Праект райхсфюрэра СС: эвакуацыя з усіх земляў, што знаходзяцца пад пагрозаю бандаў, вываз мужчын да райху і наступнае разьвядзеньне на гэтых тэрыторыях кок–сагызу — невыканальны. На думку сельскагаспадарчых экспэртаў, менавіта гэтая расьліна патрабуе асабліва пільнага догляду. Дзеці і старыя кабеты самі ня ўправяцца з палямі кок–сагызу...
Карныя апэрацыі часам ператвараюцца ў крывавыя оргіі, і гэта ня толькі падрывае давер насельніцтва да нямецкага кіраўніцтва, але перш за ўсё адбірае ўпэўненасьць у прыхільных да нас беларусаў, якія з намі супрацоўнічаюць: у некаторых выпадках яны трапляюць у поўную залежнасьць ад самаўладзтва якога–небудзь камандзіра паліцыі ці СС...
На працягу астатніх дзесяці дзён усё множыліся і множыліся скаргі і просьбы ад розных мясцовых і нямецкіх установаў аб дапамозе супраць сьляпой лютасьці, зь якой дзейнічаюць нямецкія паліцыйныя часьці, якія ў павеце Р., у апошні час — і ў павеце М. палілі вёскі, бессэнсоўна расстрэльвалі жывёлу, маўляў, жывая трапіць у рукі партызанаў. Эвакуацыю праводзяць прыблізна так: зь сям'і забіраюць бацькоў, а 3–х, 4–х або 5–гадовыя малыя дзеці пакідаюцца на волю ўласнага лёсу...
Пасьля вялікай апэрацыі "Котбус" у траўні–чэрвені гэтага году сьледам за выхадам паліцыі

---

[237] Тамсама; паведамленьне ад 14.3.1979 г., зробленае Калубовічам для аўтара (машынапіс). Калубовіч, напэўна, памыліўся наконт Цэнэра, які ў ліпені 1942 г. быў адкліканы зь Менску і ў сувязі з гэтым пакінуў Беларусь. Напэўна, меліся на ўвазе або Готбэрг, або Корзэман.
[238] Фрагмэнты справаздачы Кубэ Лёзэ прывёў у лісьце да Розэнбэрга ад 14.10.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 23/510.

> партызаны зноў цалкам апанавалі абшар, здабыты кагадзе паліцыйнымі сіламі. Зноў адбудоўваюцца колішнія лётнішчы, і сытуацыя робіцца цалкам тая ж самая, што і перад акцыяй "Котбус"... Такія самыя назіраньні насоўваюцца і ў ваколіцах Леніна, і ў Ганцавіцкай, і ў Слуцкай акругах на поўдні генэральнай акругі. Тут таксама ў лютым–сакавіку прайшла вялікая апэрацыя, у выніку якой загінула 11 000 чалавек (у апэрацыі "Котбус" — больш за 13 000). Тым часам савецкая рэспубліка "Ленін" цалкам адбудавана нанова. Саветы працягваюць вэрбоўку на тэрыторыі цывільнай адміністрацыі, на нашых палёх жнуць чырвонаармейскія жніўныя атрады...
> Ува ўсіх гэтых справах ня будзе ніякіх зьменаў, калі палітычнае кіраўніцтва ўсходніх земляў на тэрыторыях, што перадаў яму фюрэр, не атрымае безумоўнага права кіраваць паліцыяй і Вэрмахтам. Дагэтуль — апроч абяцаньняў, у якія ня верыць ужо ніхто, — мы практычна не даем нічога народам Усходу; пакуль мэтады нашай барацьбы з партызаншчынай будуць біць у нявіннае насельніцтва горш за самую партызанскую навалу, пакуль будуць расстрэльваць дзяцей і жанок, датуль усе гэтыя ўчынкі будуць вісець на рахунку ОМі, райхскамісараў і генэральных камісараў. Роўным чынам, усе добразычлівыя распараджэньні міністра акупаваных усходніх земляў у галіне прыватызацыі зямельных уладаньняў, культуры і г.д. застануцца на паперы да той пары, пакуль нямецкія часьці ня будуць падпарадкоўвацца палітычным загадам, якія будзе выдаваць толькі міністар усходніх земляў.

Камэнтуючы апісаныя Кубэ жахлівыя падзеі на Беларусі Лёзэ пісаў: "Уявіце сабе, што пра такія падзеі даведаліся на варожым баку і гэтым пакарысталіся. Такая прапаганда, відаць, папросту была б безвыніковая, і толькі таму, што чытачы і слухачы ня ў стане былі б у яе паверыць"[239]. Аднак Лёзэ ня меў ніякіх ілюзій наконт падпарадкаваньня паліцыйных уладаў кіраўніцтву цывільнай адміністрацыі і не прапаноўваў ніякага выйсьця. Ён толькі паводле магчымасьці спрыяў дзеяньням Кубэ і перасылаў у вышэйшыя інстанцыі яго рапарты, дадаючы да іх хіба толькі эмацыйныя выклічнікі, якія ня раз цытаваліся ў пасьляваеннай літаратуры, напрыклад: "Што такое Катынь у параўнаньні з гэтым?" або "Гэтая мэтода ня вартая нямецкай справы і прыносіць нам самыя балючыя страты"[240].

Затое кіраўніцтва СС паводле зразумелых прычын імкнулася перашкодзіць распаўсюджаньню зьвестак пра злачынствы карных атрадаў і заткнуць Кубэ рот. Пасьля знаёмства зь першымі рапартамі Кубэ шэф Галоўнай управы СС, ён жа сувязны афіцэр Гімлера ў ОМі, Бэргер у лісьце да Бройтыгама ад 13 ліпеня выказваў глыбокае шкадаваньне з той прычыны, што Кубэ высылае няспраўджаныя паведамленьні[241]. Адначасова копіі гэтых рапартаў Бэргер перасылаў Баху і Бранту ў асабісты штаб Гімлера. Бэргер адзначаў, што дакумэнты гэтыя "надзвычай важныя, бо сьведчаць пра нечуваную легкадумнасьць, зь якою прымаюцца за праўду паведамленьні тубыльцаў з мэтаю выкарыстаць іх супраць райхсфюрэра СС..."[242]. Адначасова ён прасіў Бранта паінфармаваць аб гэтым Гімлера.

Аднак спраўдзіць імавернасьць рапартаў было немагчыма: 10 чэрвеня загінуў Эрэнляйтнэр, а праз тры дні — Саковіч, ад якога Лянге атрымліваў інфармацыю[243]. У абодвух выпадках паведамлялася, што яны загінулі ад рук партызанаў, аднак і гэта немагчыма было спраўдзіць. Ня ўдаўся замах на Кубэ ў памяшканьні Менскага гарадзкога тэатру,

---

[239] Ліст Лёзэ да Розэнбэрга ад 18.6.1943, IMGN, Bd. XXXVIII, 135–R, S. 371.
[240] Тамсама.
[241] Ліст Бэргера да Бройтыгама ад 13.7.1943 // Trials... Vol. XIII. P. 521.
[242] Ліст Бэргера да Бранта ад 13.7.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601592. Гэты ліст трапіў у штаб райхсфюрэра СС 16.7.1943 і быў перададзены Гімлеру.
[243] Amsblatt des RMfdbO. 27.4.1944. № 7 — аб сьмерці Эрэнляйтнэра; Беларуская Газэта. 1943. 3 ліпеня. — аб сьмерці Саковіча.

арганізаваны 22 чэрвеня[244]. Пад сцэнаю была ўсталявана міна, разьлічвалася, што яна выбухне ў той час, калі ў тэатры будзе знаходзіцца Кубэ з нагоды ўрачыстага абвяшчэньня СБМ. Але выбух прагучаў пазьней, у час прадстаўленьня камэдыі Аляхновіча "Пан міністар", на якім гаўляйтэр ужо не прысутнічаў. Загінула 13 чалавек, некалькі дзясяткаў былі цяжка параненыя[245].

Пасьля няўдалага замаху, які прыпісалі "бальшавіцкім агентам", паліцыйныя колы распачалі новую атаку супраць Кубэ дзеля таго, каб прыбраць яго зь Менску. Галоўную ролю тут павінен быў адыграць шэф СД Штраўх, якога Гімлер меркаваў перавесьці на пасаду начальніка выведкі ў штабе Баха ўжо 24 чэрвеня[246], а Готбэрг і Бах заахвочвалі абяцанкамі павышэньня[247]. У чэрвені–ліпені Штраўх і яго людзі пачалі актыўна праточвацца ў генэральны камісарыят і "распрацоўваць" Кубэ, аднак ён гэта своечасова заўважыў. Разгарэўся скандал. 20 ліпеня Кубэ выклікаў Штраўха і паведаміў яму, што парывае ўсялякае супрацоўніцтва з паліцыяй, і асабліва — з СД, і забараняе яе супрацоўнікам уваходзіць у генэральны камісарыят. А беспасярэдняй нагодай для гэтага паслужыў расстрэл СД 70 габрэяў, што працавалі ў камісарыяце[248].

Намаганьні Штраўха падтрымліваў Готбэрг. Ён быў асабліва зацікаўлены ў тым, каб прыбраць Кубэ: у найбліжэйшым часе ён спадзяваўся атрымаць павышэньне да групэнфюрэра, а ў далейшай пэрспэктыве разьлічваў заняць пасьля Кубэ пасаду генэральнага камісара Беларусі[249]. 21 ліпеня ён у лісьце да Баха падрабязна апісаў абставіны, пры якіх Кубэ парваў супрацоўніцтва з СД, а таксама іншыя праявы яго варожасьці да СС наступным чынам:

> 20.7.1943 г. паводле загаду гаўляйтэра Кубэ ў тутэйшым генэральным камісарыяце адбылася нарада з кіраўнікамі аддзелаў... Гаўляйтэр спытаўся тады, ці не належыць нехта з прысутных да СД, бо ён чуў, што ў генэральным камісарыяце ёсьць шпікі з СД. Паколькі ніхто не прызнаўся, гаўляйтэр забараніў супрацоўнікам генэральнага камісарыяту зьвязвацца з СД... На пратэст кіраўніка аддзелу Фрайдэнбэрга гаўляйтэр дадаў да свайго распараджэньня, што дзеля неабходных патрэбаў у перамовах з СД трэба загадзя атрымліваць яго дазвол. Сёньня, папоўдні, гаўляйтэр гаварыў пра гэта з жанчынамі, што працуюць у генэральным камісарыяце, і забараніў ім кантактаваць з СД... Обэргрупэнфюрэр! У дадатак да нататкі обэрштурмбанфюрэра СС Штраўха ад 20.7.1943 я лічу за свой абавязак перадаць Вам гэты рапарт, тым больш, што абразы, якія Кубэ кідае ў адрас камандзіраў СС падчас іх адсутнасьці перад кіраўнікамі аддзелаў, даўно не ў навіну... напрыклад: "Дух Гімлера і Гайдрыха падрывае германскі падмурак нямецкай нацыі, і можна параўнаць яго з мэтадамі масонства", альбо пагардлівыя тырады пра обэрштурмбанфюрэра СС Штраўха і г.д.[250].

---

[244] Auch er fiel für Deutschland // Deutsche Zeitung im Ostland. 23.9.1943.

[245] Беларуская Газэта. 1943. 30 чэрвеня; Паведамленьне Антона Адамовіча, былога публіцыста гэтай газэты, зробленае для аўтара ў красавіку 1985 г. — *Ю.Т.*

У ліку забітых быў Яраслаў Кушаль — сын Н. Арсеньневай і Ф. Кушаля. — *А.С.*

[246] Ліст Гімлера да Кальтэнбрунэра ад 24.6.1943. AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 81/2601635.

[247] Акты Штраўха // AGKBZH, ATW 9, Dokumenty prokuratury, T. III. S. 192.

[248] Кубэ тады сказаў Штраўху: "Такога характару паводзіны ня вартыя немца і Нямеччыны Канта і Гётэ. Калі нямецкі аўтарытэт будзе падарваны на цэлым сьвеце, дык станецца гэта з нашай віны". Гл. нататкі Штраўха ад 20.7.1943. // Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. 1956. Heft 1, S. 78.

[249] Спадзяваньні Готбэрга грунтаваліся на прынцыпах супрацоўніцтва, узгодненых з Гімлерам і Розэнбэргам, паводле якіх падчас доўгай адсутнасьці райхскамісара яго абавязкі павінен быў выконваць HSSPF. Гл. ліст Гімлера да Розэнбэрга ад 19.11.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 29/1182.

[250] Ліст Готбэрга да Баха ад 21.7.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 59/2575281

Нарэшце, з самай цяжкай артылерыі выпаліў Штраўх. 25 ліпеня, ужо ў якасьці чальца штабу Баха, ён паклаў свайму начальніку падрабязны рапарт у справе з Кубэ. У ім гаварылася пра варожасьць Кубэ да СС, гучалі абвінавачваньні ў поўнай няздольнасьці яго як кіраўніка і адміністратара, крытыкавалася беларуская палітыка гаўляйтэра. Штраўх зьвярнуў асаблівую ўвагу на паводзіны Кубэ ў габрэйскім пытаньні, ён расцаніў іх як "немажлівыя": у афіцыйных выступах Кубэ адназначна падтрымліваў апэрацыі па вынішчэньні габрэяў, аднак рэальныя ўчынкі супярэчылі гэтым заявам. Штраўх прывёў доказы, на грунце якіх сьцьвярджаў, што Кубэ "ў глыбіні свайго сэрца праціўнік нашых габрэйскіх акцыяў". У сваіх абвінавачваньнях ён прыходзіў да высновы, што "пры такіх умовах, на маю думку, пакідаць генэральнага камісара на ранейшай пасадзе немэтазгодна"[251].

У даступных архіўных крыніцах няма адказу на пытаньне: якім чынам былі выкарыстаны гэтыя матэрыялы? Відаць, Бах, зьбіраючы іх, меркаваў пакласьці гэтыя дакумэнты Гімлеру, каб пазьней абапірацца на іх у размове з Гітлерам наконт Кубэ. Пра гэта сьведчыць прызнаньне Бэргера перад Амэрыканскім вайсковым трыбуналам у Нюрнбэргу: гаворачы пра "напружанасьці" ў стасунках Кубэ з афіцэрамі СС, ён сьцьвярджаў, што "яны зацікавіліся плянамі, якія яўна скіраваныя былі на тое, каб, я б сказаў, пакончыць з Кубэ, каб ён вымушаны быў пакінуць пасаду генэральнага камісара"[252]. Значыць, калі размова з Гітлерам вялася, ён гэтыя намеры адхіліў, бо Кубэ застаўся на сваім месцы і выкрываў надалей злачынствы СС. Справу напаткала фіяска. 14 жніўня Брант пераслаў рапарты Готбэрга і Штраўха Бэргеру і адзначыў, што Гімлер прасіў азнаёміць зь імі Розэнбэрга[253]. Той у сваю чаргу выслаў у Менск свайго намесьніка Мэера, каб перадаць Кубэ "сур'ёзнае папярэджаньне"[254].

На некалькі тыдняў запанавала ціша. У ноч з 21 на 22 верасьня яе перарваў выбух міны, падкладзенай пад матрац Кубэ. Нямецкае інфармацыйнае бюро (*Deutsches Nachrichtenbüro*) паведаміла зь Менску, што Кубэ загінуў у часе замаху, арганізаванага бальшавіцкімі агентамі, і гэта было пацьверджана з савецкага боку. Для расьсьледаваньня ўсіх акалічнасьцяў замаху была створана Вялікая спэцыяльная камісія (*Grosse Sonderkommission*), якая складалася з афіцэраў СС: старшыні — Бондарфа, а таксама Брэера і Гайса. Камісія высьветліла, што міну прынесла і ўсталявала ў спальні Кубэ яго прыбіральшчыца, Алена Мазанік, якая атрымала яе ад Марыі Восіпавай, партызанскай сувязной. Быў раскрыты ўдзел у замаху іншых чальцоў падпольля, высьветлена, што абедзьве названыя жанчыны ўцяклі да партызанаў і самалётам перапраўлены ў Маскву[255]. Гэтыя зьвесткі пацьвердзіліся пазьней у маскоўскім часопісе "Работница" за люты 1947 г. — г.зн. тады, калі ў СССР была яшчэ невядомая справаздача Бондарфа[256].

Супадзеньне ў паказаньнях Мазанік і Восіпавай з вынікамі расьсьледаваньняў Бондарфа адназначна сьведчыць пра ўдзел гэтых жанчын у замаху на Кубэ, аднак гэта не вырашае пытаньня, хто быў яго ініцыятарам і арганізатарам. Сьмерць Кубэ, безумоўна, была выгоднай савецкім уладам, якім яго палітычныя паводзіны перашкаджалі куды больш за злачынствы эсэсаўцаў; тыя толькі ўзбуджалі ў грамадзтве нянавісьць да немцаў, і партызаны гэтым лёгка карысталіся. Аднак сьмерць Кубэ, па згаданых ужо маты-

---

[251] Рапарт Штраўха ад 25.7.1943... С. 80—92.

[252] Trials... Vol. XIII. P. 549.

[253] Ліст Бранта да Бэргера ад 14.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 59/2575288.

[254] Ліст Бэргера да Бранта ад 18.8.1943, Trials... Vol. XIII. P. 525. Візыт Мэера ў Менск адбываўся 24—25 жніўня 1943 г.

[255] Справаздача Вялікай спэцыяльнай камісіі, падпісаная Бондарфам, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 15/233.

[256] Марина М. Героиня Великой Отечественной войны // Работница. 1947. № 2. С. 11. Справаздача Бондарфа з пэўнымі невыпадковымі скарачэньнямі ўпершыню апублікавана ў кн.: Новиков И. Бессмертие Минска. Минск, 1977. С. 205—210.

вах, была выгаднай і кіраўніцтву СС, якое ўжо перабрала ўсе іншыя магчымасьці пазбыцца гаўляйтэра ў Менску. Такім чынам, нельга адкінуць вэрсіі, што замах на Кубэ падрыхтавала СС. На карысьць такой гіпотэзы сьведчаць наступныя акалічнасьці, што вынікаюць з аналізу справаздачы камісіі Бондарфа:

1. Камісія складалася выключна з афіцэраў СС і працавала пад беспасярэднім наглядам шэфа СД у Менску, які падпарадкоўваўся Готбэргу, Баху і Гімлеру. Гэта дазваляла праціўнікам Кубэ цалкам падпарадкаваць яе вынікі свайму ўплыву.

2. Сьледзтва праводзілася ўсяго некалькі дзён — ужо 29.9.1943 г. шэф менскага СД распусьціў камісію. Толькі пасьля таго "высьветлілася", што Мазанік, дапушчаная да працы ў доме Кубэ, была да вайны працаўнічкай НКВД, а ў цяперашні момант — дзяячкай савецкага падпольля. Адначасова ў надзвычайна кароткі тэрмін былі выкрытыя ўсе падпольшчыкі, што ўдзельнічалі ў замаху на Кубэ, і ніводзін зь іх ня выкарыстаў магчымасьці ўцячы адразу ж пасьля гібелі гаўляйтэра. Гэта сьведчыла альбо пра надзвычайныя здольнасьці СС, альбо пра фабрыкацыю ўсёй справы, тым больш, што ўсіх сьведкаў зьнішчылі, так што сьляды былі замецены цалкам.

3. За такі кароткі час — г.зн. да 29 верасьня! — камісія высьветліла, што Мазанік і Восіпаву з партызанскага лётнішча перапраўлі ў Маскву. Гэта надзвычай важная акалічнасьць у справаздачы, яна сьведчыць пра тое, што СД мела сваіх інфарматараў у атрадзе, куды ўцяклі абедзьве жанчыны. Значэньне гэтага факту пацьвярджаецца яшчэ і тым, што ў савецкім варыянце публікацыі справаздачы камісіі Бондарфа гэты пункт быў апушчаны.

У Савецкім Саюзе першае паведамленьне пра сьмерць Кубэ апублікавала маскоўская "Правда" 24 верасьня, у ім адзначалася, што гаўляйтэр загінуў ад "меткой партизанской пули". Гэтая памылка паўстала, хутчэй за ўсё, у выніку ўласнай інтэрпрэтацыі паведамленьня нямецкага радыё. Варта зьвярнуць на яе больш пільную ўвагу, бо гэта значыла, што камандаваньне партызанскага атраду, у які ўцяклі Мазанік і Восіпава, ня выслала ў Маскву паведамленьня. Можна, такім чынам, меркаваць, што атраднае камандаваньне, якое, паводле цяперашняй вэрсіі, здаўна і загадзя рыхтавалася да замаху, даведалася пра яго толькі з вуснаў незнаёмых беглых жанчын і паставілася да справы асьцярожна, дапускаючы, што гэта, магчыма, правакацыя. Пра гэта сьведчыў пазьнейшы лёс Мазанік і Восіпавай: пасьля публікацыі ў 1947 г. артыкула ў "Работницы" некалькі гадоў вакол іх панавала суцэльнае маўчаньне. Між іншым, ня згадваў пра іх і Л. Цанава, аўтар вялікай працы аб партызанскай вайне на Беларусі, дзе знайшлося месца для значна менш цікавых фактаў[257]. Адзначым, што аўтар кнігі на пачатку пяцьдзясятых гадоў быў міністрам дзяржаўнай бясьпекі БССР. Можна, такім чынам, дапусьціць, што вэрсія аб правакацыі СС сур'ёзна бралася пад увагу.

Кубэ таксама асьцерагаўся замаху. У апошнія месяцы свайго жыцьця ён меркаваў замяніць паліцыйную ахову вакол свайго дому "прыватнай" вартай, якая павінна была складацца з давераных чальцоў СА або маладых фольксдойчаў[258]. Але Гімлер "ні ў якім разе" не пагаджаўся на такія праекты[259]. Значыць, ён поўнасьцю трымаў Кубэ ў руках. Сьмерць Кубэ і па сёньняшні дзень не перастае быць таямніцай, нягледзячы на шматлікія згадкі ў літаратуры на гэтую тэму.

У дзень пахаваньня Кубэ ў Бэрліне Гітлер загадаў ад свайго імя ўскласьці вянок на яго магіле[260]. Затое Гімлер сказаў, што толькі сьмерць выратавала Кубэ ад канцля-

[257] Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. В 2 т. Минск, 1949—1951. Т. II. С. 671—673.

[258] Рапарт Штраўха ад 25.7.1943... С. 84; тэлекс гаўптштурмфюрэра Майнэ з асабістага штабу райхсфюрэра СС ад 22.5.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 59/2575290.

[259] Тамсама.

[260] Domarus M. Hitler Reden und Proklamationen 1932—1945 // Bd. II. Würzburg, 1963. S. 2043.

геру[261]. Разьбежнасьць у ацэнках гэтага чалавека была вельмі шырокая, і ня толькі ў вачох найбуйнейшых асобаў гітлераўскай Нямеччыны, але і пасьляваенных дасьледчыкаў.

І сапраўды, цяжка адназначна ацаніць дзейнасьць Кубэ. Ён быў найвышэйшым прадстаўніком гітлераўскага акупацыйнага рэжыму на Беларусі, бясспрэчна, злачыннага па сваім характары. З фармальнага гледзішча, згодна з дэкрэтам Гітлера ад 17.7.1941 г., яму "асабіста і беспасярэдне" быў падначалены камандзір СС і паліцыі ў Менску, таму адказнасьць за масавыя забойствы, што праводзіліся гімлераўскімі органамі, ляжала таксама і на Кубэ. Аднак у гэтым самым дэкрэце адзначалася, што толькі сам райхсфюрэр СС мае права выдаваць распараджэньні камандзірам СС і паліцыі. Такім чынам, уплыў цывільнай адміністрацыі на іх дзейнасьць выключаўся. Да самай сьмерці Кубэ гэтая інструкцыя не зьмянілася, на яе падставе паліцыйныя ўлады ўхіляліся ад усялякага ўмяшальніцтва з боку кіраўніцтва цывільнай адміністрацыі. Паводзіны Вэрмахту таксама не залежалі ад гэтай адміністрацыі.

Можна, такім чынам, меркаваць, што пры тых абставінах Кубэ ня нёс беспасярэдняй службовай адказнасьці за злачынствы генацыду. У той сытуацыі ён мог гэтак жа, як і іншыя камісары на акупаваных савецкіх тэрыторыях, проста захоўваць глыбокую дыстанцыю да злачынстваў гімлераўскага апарату. Пазьней, на Нюрнбэрскім працэсе, такая пазыцыя не расцэньвалася як важкі довад віны, пра што сьведчаць памяркоўныя выракі Амэрыканскага вайсковага трыбуналу. Аднак гэтыя падзеі Кубэ ўспрымаў нераўнадушна, магчыма, пад уплывам пачуцьця маральнай адказнасьці, што, дарэчы, адлюстравана ў яго апошняй, жнівеньскай, справаздачы. З гэтых самых меркаваньняў ён не хацеў пакінуць сваёй пасады — у той драматычнай асабістай сытуацыі адыход мог бы стаць для яго сапраўдным выйсьцем, але гэта азначала б капітуляцыю перад злачынствамі СС.

Таму можна было б палічыць за непаразуменьне меркаваньне Даліна, паводле якога Кубэ і СС падзялялі тыя ж самыя мэты і рэаліі, калі б не тэндэнцыйнасьць гэтага аўтара[262]. Гэта датычыць нават габрэйскага пытаньня. Райтлінджэр, дасьледчык генацыду габрэяў у Эўропе, адзначаў, што дзеяньні Кубэ ў гэтым напрамку былі неэфэктыўныя, аднак тут жа заўважыў, што

> ... сярод цывільных або вайсковых буйных чыноўнікаў у Расеі Кубэ быў адзіны, хто пэўны час тармазіў дзейнасьць расісцкіх забойцаў. Патэтычны і неэфэктыўны, азызлы і экзальтаваны, гэты паджылы чалавек шмат месяцаў займаўся тым, на што не асьмеліўся ніводзін сябра праслаўленай антыгітлераўскай апазыцыі[263].

Заўважым, між іншым, што Кляўса фон Штаўфэнбэрга і яго таварышаў гісторыкі НДР прызнавалі за антыфашыстаў[264]. Кубэ ацаніў і падтрымаў беларускае пытаньне, у пэрспэктыве ён бачыў стварэньне асобнай беларускай дзяржавы пад кіраўніцтвам райху. Гэтая канцэпцыя і спробы па яе ажыцьцяўленьні выклікалі суворы асуд савецкіх уладаў, і — як вынік — у працах гісторыкаў і публіцыстаў БССР ацэнка Кубэ была адназначна адмоўная. Затое ў колах беларускай эміграцыі ўвогуле ўстрымліваліся ад якіх–небудзь ацэнак, галоўным чынам дзеля таго, каб найбольш выгадна ахарактарызаваць дзейнасьць Астроўскага, якая распачалася толькі пасьля сьмерці Кубэ.

Таму варта прывесьці пасьмяротную ацэнку Кубэ, зьмешчаную ў жалобным паведамленьні Камітэту даверу. Яно падпісана старшынём Камітэту Іваноўскім і яго намесьнікам Сабалеўскім і адлюстроўвае палітычную пазыцыю большай часткі беларускіх нацыяналь-

[261] Reitlinger G. The House Built on Sand. The Conflicts of German Policy in Russia 1939—1945. London, 1960. P. 157.

[262] Dallin A. German Rule in Russia 1941—1945. A Study of Occupation Policies. London, 1957. P. 212.

[263] Reitlinger. P. 256.

[264] Groehler O., Drobisch K. Der 20. Juli 1944 // Einheit. 1984. № 7. S. 633.

ных дзяячоў таго пэрыяду. Варта, дарэчы, заўважыць, што аўтары паведамленьня паўстрымаліся ад таго, каб сьпісаць замах на "маскоўскіх агентаў". Падаём поўны яго тэкст:

> 22 верасьня памёр ад рукі баязьлівага злачынцы генэральны камісар Беларусі, гаўляйтэр Вільгельм Кубэ. Вестку аб гэтай трагічнай сьмерці беларусы прынялі з найглыбейшым абурэньнем. У асобе нябожчыка беларускі народ траціць свайго найлепшага сябра і змагара за інтарэсы Беларусі. Беларусы верылі і адчувалі, што іх жаданьні будуць зьдзейсьненыя генэральным камісарам Кубэ. Жыцьцё і дзейнасьць гэтага дзяржаўнага мужа стала перашкодаю нашым ворагам. Таму яны стараліся яго прыбраць. У сувязі з трагічнай сьмерцю гэтага чалавека беларускі Камітэт даверу выказвае ад імя беларускага народу самае глыбокае спачуваньне нямецкаму народу і ўраду нямецкага райху[265].

### Настроі насельніцтва і пазыцыі палітычных групаў

Зь некалькіх прычынаў палітыка Кубэ аказала на настроі беларускага насельніцтва вельмі абмежаванае ўзьдзеяньне. Па–першае, яна распаўсюджвалася толькі на тэрыторыю генэральнай акругі Беларусі. Па–другое, на гэтым абшары, як і па ўсёй Беларусі, значна большы ўплыў на пазыцыю насельніцтва мелі іншыя фактары: палажэньне на савецка–нямецкім фронце, вынішчэньне габрэйскага насельніцтва, партызаншчына і мэтады барацьбы зь ёю, нарэшце, эканамічная сытуацыя гарадзкіх і вясковых жыхароў. У некаторых раёнах Заходняй Беларусі спэцыфічную ролю адыгрывала польскае пытаньне. Гэтае мноства вызначальных прычын, якія да таго ж з рознай інтэнсіўнасьцю дзейнічалі ў розных рэгіёнах краіны, і да таго ж нярэдка зьмяніліся ў часе, не дазваляе лёгка вызначыць грамадзкія настроі.

Найбольш аднастайная сытуацыя панавала ў раёнах, што знаходзіліся ў зоне вайсковай адміністрацыі ўва Ўсходняй Беларусі. Савецкая эвакуацыйная кампанія і нямецкія рэквізыцыі Вэрмахту ўжо на пачатку вайны прывялі гаспадарку гэтай часткі краю да поўнага заняпаду. Зямельная рэформа і скасаваньне вайсковымі ўладамі ўсіх ранейшых абмежаваньняў жывёлагадоўлі абудзілі надзеі сялянства на рост прадукцыйнасьці сельскай гаспадаркі. Аднак гэтыя чаканьні неўзабаве разьвеяліся, бо Вэрмахт па–ранейшаму нахабна рэквізаваў прадукцыю, паборы раз за разам расьлі без увагі на патрэбы мясцовага насельніцтва, не зважаючы на неабходнасьць аднаўленьня вытворчай базы. Паводле нямецкіх падлікаў, ужо ў верасьні 1942 г. па ўсёй тылавой зоне групы армій "Цэнтар" пагалоўе жывёлы ўпала да такой ступені, што ў сялян часта адбіралі апошнюю карову, якую савецкія ўлады дазвалялі ўтрымліваць пасьля таго, як была праведзена калектывізацыя (т.зв. "сталінская карова"). На бойню гналі нават цельных кароў[266].

Вялікія спусташэньні ў сельскай гаспадарцы Ўсходняй Беларусі выклікала партызанская вайна, у якой абодва варожыя бакі імкнуліся пазбавіць праціўніка харчовых запасаў. Мы ўжо згадвалі, што падчас карных экспэдыцыяў немцы адганялі і нават вынішчалі жывёлу, а савецкія партызаны на Віцебшчыне пераправілі некалькі тысяч галоў за лінію фронту. Вынікі гэтай барацьбы, аднак, падалі цяжарам на цывільнае насельніцтва, а не на баявых праціўнікаў. Ужо ў 1942 г. сяляне пачалі хаваць ад рэквізыцыяў збожжа, білі жывёлу патаемна і не пастаўлялі харчы ў гарады[267]. Гараджанам

[265] Deutsche Zeitung im Ostland. 23.9.1943.

[266] Meldungen.., № 16, 14.8.1942; № 22, 25.9.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 236/2724718, 2724891.

[267] В. Быкаў, які паходзіў зь Віцебшчыны, сьведчыў, што ў часе вайны ягоныя родныя "ад'еліся": "І хлеба было, і да хлеба. Калгасы распусьцілі, абраблялі свае надзелы. Было і немцам, і партызанам, і сабе заставалася". Гл.: Быкаў В. Пункціры жыцьця: Далітаратурная біяграфія // Дзеяслоў. 2005. № 5(18). С. 267. — *А.С.*

стала вельмі цяжка пракарміцца. Паводле інструкцыяў Шэнкендорфа, з 3.9.1942 г. тыднёвы паёк людзей найцяжэйшых прафэсіяў павінен быў складацца з: 1580 г жыта, 250 г грэчкі і проса, 4000 г бульбы, 100 г мяса, 60 г тлушчаў і 0,5 л малака[268]. Аднак ужо пад канец гэтага месяца мяса і тлушчы перасталі выдавацца[269]. Вельмі востра не хапала паліва і элемэнтарных прамысловых вырабаў.

У 1943 г. матэрыяльнае становішча насельніцтва ўва Ўсходняй Беларусі пагоршылася яшчэ больш. Ужо ня толькі гараджане, але і частка вяскоўцаў адчула голад, асабліва ў мясьцінах, дзе прайшліся карныя экспэдыцыі. Людзі часта трацілі дах над галавой і жылі пад сталай пагрозай дэпартацыі на прымусовую працу або проста сьмерці ад падазрэньня ў супрацоўніцтве з партызанамі. У невыносных умовах, пра якія 3.7.1941 г. гаварыў Сталін, на кантраляваных немцамі тэрыторыях Усходняй Беларусі апынулася перш за ўсё мясцовае насельніцтва. Апрача жыцьця, людзям, бадай, ужо не было чаго губляць, пераход у партызаны ў такой сытуацыі, асабліва пасьля сталінградзкага пералому, калі сілы ляснога войска значна павялічыліся, даваў усё ж неяк больш шанцаў ператрываць вайну. У недасяжных для немцаў зонах, т.зв. партызанскіх рэспубліках, для насельніцтва ствараліся неблагія, а часам — лепшыя, і, натуральна, — больш бясьпечныя ўмовы, чым пад акупацыяй. Гэта была галоўная прычына вялікага наплыву людзей у партызанскія атрады ў 1943 г.

У адрозьненьне ад зоны цывільнага рэжыму, нямецкія вайсковыя ўлады ўва Ўсходняй Беларусі не праводзілі актыўнай нацыянальнай палітыкі і не імкнуліся выкарыстаць яе, каб дабіцца прыхільнага стаўленьня тутэйшых жыхароў. Калі не лічыць створаных у некаторых месцах гурткоў самапомачы, што займаліся выключна дабрачыннасьцю, у гэтай частцы краю не паўстала ніякіх беларускіх арганізацыяў накшталт БНС (да рэформы) альбо Камітэту даверу, і толькі ў верасьні 1943 г. вайсковыя ўлады пагадзіліся на дзейнасьць СБМ. На беларускай мове тут ня выйшла аніводнай кніжкі ці брашуры, адозвы і прэсу для мясцовага насельніцтва выдавалі, як правіла, па–расейску. Затое партызаны выдавалі і распаўсюджвалі шмат газэт на беларускай мове, іх выхад набываў пэўнае палітычнае значэньне[270]. Акупацыйныя ўлады выдалі дазвол на арганізацыю мясцовых (на раённым узроўні) культурных таварыстваў і народных дамоў, пры якіх было створана некалькі аматарскіх тэатраў. Аднак у моўныя праблемы немцы ня ўмешваліся, таму, напрыклад, у Віцебску і Барысаве гэтыя тэатры давалі спэктаклі на беларускай мове, а ў Бабруйску і Магілёве — на расейскай[271]. Улады не аказвалі прымусу і ў справе выбару мовы навучаньня, дый, зрэшты, школы на гэтым абшары праіснавалі вельмі нядоўга — фактычна адзін сэзон 1942/43 г. Такім чынам, моўная сытуацыя складвалася безь якога–небудзь пэўнага ўзьдзеяньня ўладаў, яна залежала найперш ад жаданьняў і магчымасьцяў культурна–асьветных дзеячоў. Гэта не спрыяла разьвіцьцю нацыяналістычных беларускіх або расейскіх тэндэнцыяў. На гэтай глебе бадай не адчувалася напружаньняў.

Матэрыяльныя ўмовы існаваньня жыхароў генэральнай акругі Беларусі выглядалі іначай. На вёсцы тут пераважалі асобныя прыватныя гаспадаркі, на пачатку вайны савецкая эвакуацыя іх амаль не закранула, рэквізыцыі Вэрмахту таксама спусташылі не ў такой ступені, як ува ўсходняй частцы краю. Абавязковыя паставы на 1942 г. у разьліку на адзін гектар ворыва і пашы складалі: 100 кг збожжа, 200 кг бульбы і 20 кг мяса жывой

[268] Müller, Okkupation–Raub–Vernichtung... S. 240.

[269] Meldungen.., № 22, 25.9.1942.

[270] Зь сярэдзіны 1942 г. у Віцебску, Бабруйску і Барысаве пачалі выдаваць непэрыядычныя беларускамоўныя дадаткі да мясцовых газэт, якія выходзілі на расейскай мове. Толькі 25.3.1943 г. у Віцебску пачала выходзіць беларуская газэта “Беларускае Слова” накладам 20 000 экз. Пры канцы 1943 г. у сувязі са становішчам на фронце яе рэдакцыю перанесьлі ў Дзьвінск (Латвія) // Раніца. 1943. 23 траўня; 1944. 9 студзеня.

[271] Раніца. 1943. 15 жніўня; 1943. 29 жніўня; Новое слово. 1943. 26 декабря.

вагою — гэта былі досыць памяркоўныя патрабаваньні, яны давалі сялянам магчымасьць распараджацца нават большай часткай прадукцыі, чым пры саветах[272]. У параўнаньні з высокімі коштамі набываных машын і зямельных прылад, вотруб'я і г.д. закупачныя цэны былі нізкія, хоць пакідалі ў сялян адчуваньне эксплюатацыі, аднак пры гэтым вонкава захоўваліся прыкметы рынкавых мэханізмаў, а не татальнага рабаваньня, што панавала на ўсходзе[273]. Землі зьнішчаных партызанамі памешчыцкіх маёнткаў ахвотна разьбіраліся ў арэнду, такім чынам, палявыя работы на тэрыторыі генэральнай акругі былі праведзены восеньню 1942 г. на 100%[274].

Паводле справаздачы генэральнага камісарыяту ў Менску, плян закупу сельскагаспадарчай прадукцыі ад ураджаю 1942 г. выконваўся наступным чынам: збожжа — 81,5%, салома — 80%, сена — 83,9%, бульба — 62,2%, мяса — 40,5%, тлушчы — 38,5%, ільняное насеньне — 82,5%[275]. Пэўная частка гэтых запасаў была зьнішчана партызанамі альбо перайшла ў іх рукі, аднак адбылося гэта або на нарыхтоўчых пунктах, або пазьней, пры далейшым перавозе прадукцыі з гэтых пунктаў. Важна падкрэсьліць, што сяляне прывозілі прадукцыю на гэтыя пункты насуперак партызанскай агітацыі ("ані кілаграму збожжа для акупантаў"). Іх не спынялі ані забойствы, якія чынілі "лясныя мсьціўцы" над вясковымі пастаўшчыкамі, ані паленьне гаспадарак. Калі б партызаны мелі рацыю, трактуючы гэтых людзей як ворагаў, дык тады належала б прызнаць, што і Кубэ не памыляўся, гаворачы, што выкананьне абавязковых паставаў сьведчыла аб падтрымцы нямецкіх уладаў насельніцтвам[276]. Але цяжка пераводзіць гэты канфлікт у ідэалягічны разрэз — ім адлюстроўваюцца хіба толькі супрацьлеглыя пазыцыі варожых бакоў, а не сялянства, якое не жадала ўблытвацца ў барацьбу, а падаткі для Нямеччыны трактавала гэтаксама, як некалі падаткі для саветаў, а яшчэ раней — для Польшчы.

Таму здабыцьцё прыхільнасьці вясковага насельніцтва, якое складала 85—90% жыхароў генэральнай акругі Беларусі, мела для абодвух бакоў вялікае значэньне. Таму і партызаны імкнуліся ня толькі застрашыць сялян, але дзейнічалі і наадварот: дзялілі між людзей здабытую жывёлу, харчы ці паліва. Кубэ таксама стараўся пазьбегнуць сытуацыяў, якія маглі б кінуць мясцовых жыхароў у роспач — пазьней яна непазьбежна вылілася б у партызанскія настроі. Дзеля гэтага генэральны камісарыят значна заніжаў лічбы наяўнага пагалоўя свойскай жывёлы, каб давесьці, што павелічэньне паставаў Вэрмахту — справа немагчымая[277]. Аналягічным чынам дзейнічалі ўлады генэральнага камісарыяту і пры вэрбоўцы працоўнай сілы. Так, да верасьня 1942 г. улучна зь яго тэрыторыі ў Нямеччыну было вывезена толькі 31 тыс. чалавек (без уліку ваеннапалонных), прытым падкрэсьлівалася, што ў гарадох працоўнай сілы не стае, так што вэрбаваць яе можна толькі на вёсцы, аднак там перашкаджае гэтаму дзейнасьць партызанаў. Гэта была праўда, але ня ўся,

[272] Meldungen.., № 29, 13.11.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 236/2725127.

[273] Так, напр., за 100 кг жыта селянін атрымліваў 2,50 райхсмаркі, прычым ён мусіў атрымліваць вотруб'е для пашы па цане 6 райхсмарак за 100 кг // Справаздача акруговага баранавіцкага камісара ад 11.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/128.

[274] Meldungen.., № 38, 22.1.1943, александрыйскія мікрафільмы, T–175, R–236/2725412—414.

[275] Справаздача Фрайтага з генэральнага камісарыяту ад 28.6.1943, IMGN, Bd. XXXI, 30000–PS, S. 462.

[276] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 3.2.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 15/288.

[277] У лютым 1942 г. на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі налічвалася 275 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, г.зн. 25% ад даваеннай колькасьці: Факторович А. Крах аграрной политики немецко–фашистских оккупантов в Белоруссии. Минск, 1979. С. 31. У чэрвені 1942 г. гэтая колькасьць ацэньвалася ў 40—45% ад даваеннага ўзроўню: Chmielewski v. F. Im Schatten der Front // Das Reich. 28.6.1942. У жніўні 1943 г. Кубэ, у сваю чаргу, паведамляў, што на абшары генэральнага камісарыяту Беларусі знаходзіцца яшчэ 450 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, г.зн. 50% ад нармальнага пагалоўя: Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 84/1330. Аднак пагалоўе не павялічвалася, а зьмяншалася, адсюль вынікае, што ў 1942 г. зьвесткі заніжаліся.

паколькі партызаны ў той момант кантралявалі яшчэ нязначную частку земляў акругі[278]. Захады цывільных уладаў прыносілі плён: да сакавіка 1943 г. колькасьць высланых у райх работнікаў павялічылася толькі да 35 тысяч[279].

Пералом у сытуацыі настаў толькі з пачаткам вялікіх карных апэрацый на абшары Генэральнай акругі Беларусі — г.зн. зь лістапада 1942 г. Паводле разьлікаў Кубэ, да канца жніўня 1943 г. забойствы і дэпартацыі абязьлюдзілі край так, што 240 тыс. га зямлі не было апрацавана, а 10—15% сялянскіх сем'яў страціла апошнюю карову[280]. Гэтыя акцыі значна пагоршылі дэмаграфічную і гаспадарчую сытуацыю ў краі, а іх палітычныя вынікі набылі пагрозьлівы рэзананс. Яны перш за ўсё перакрэсьлілі надзеі вясковых жыхароў — весьці нармальную, упарадкаваную гаспадарку ў такіх умовах было немагчыма. Людзі апынуліся ў атмасфэры бяспраўя і няспыннай пагрозы, а гэта была адна з найважнейшых задач партызанаў. Але і цяпер рэакцыя грамадзтва не была такою аднадушнай, як ува Ўсходняй Беларусі: расьлі ня толькі партызанскія атрады, але таксама, і прычым у ня меншай ступені, сілы самааховы і паліцыі. Настроі жыхароў былі тут больш разнастайныя, гэтак жа, як і грамадзкія ўплывы: з аднаго боку — паразы немцаў на Ўсходнім фронце і партызанская вайна, а з другога — нацыяналістычная прапаганда. Нарэшце, нягледзячы на паступовае зьбядненьне краю, тутэйшым сялянам па–ранейшаму было што губляць, асабліва ў параўнаньні з жыхарамі Ўсходняй Беларусі.

Паводле нямецкіх крыніц, з красавіка 1943 г. выразна акрэсьленыя пазыцыі займалі дзьве крайнія групы насельніцтва, чыя ўдзельная вага ацэньвалася як нязначная. Першая зь іх — рашучыя прыхільнікі бальшавізму — найчасьцей жылі ў гарадох, якія да верасьня 1939 г. месьціліся на тэрыторыі СССР, супрацоўнічалі з партызанамі і чакалі вяртаньня Чырвонай Арміі. У другую групу ўваходзіла невялікая частка беларускай інтэлігенцыі і сялян з гарадзкіх ваколіц, яны зрабілі рашучую стаўку на нямецкую палітыку і бачылі сваю будучыню толькі пад аховай Нямеччыны, зь якой “зьвязалі свой лёс на радасьць і на гора”[281]. І адна, і другая група мелі ў грамадзтве невялікую ўдзельную вагу.

Паміж гэтымі крайнімі групоўкамі знаходзілася большасьць насельніцтва генэральнай акругі Беларусі. На пачатку акупацыі яна сустрэла немцаў прыхільна, але пад націскам далейшых падзеяў адхіснулася ад іх і — на думку нямецкіх сьведкаў сытуацыі — вагалася паміж “палітычнай антыпатыяй (апатыяй? — *Рэд.*), нацыяналізмам і прасавецкімі сымпатыямі”. Галоўную ўвагу гэтая частка насельніцтва скіроўвала на партызанскую праблему, далейшае ажыцьцяўленьне аграрнай рэформы і здавальненьне паўсядзённых жыцьцёвых патрэбаў, аднак яе хвалявалі таксама і палітычныя справы: пытаньне будучага самакіраваньня Беларусі, выхад яе з Остлянду, імкненьне да незалежнасьці ў прыбалтыйскіх краінах, а таксама — акцыя Ўласава[282].

Намаляваная нямецкімі назіральнікамі сытуацыя (асабліва праявы беларускага нацыяналізму) вельмі цікавая, і ня толькі таму, што гэта было новае зьявішча ў палітры грамадзкіх настрояў: у першы пэрыяд акупацыі паліцыйныя данясеньні паблажліва аб-

[278] Улады генэральнай акругі падавалі, што ў зоне дзеяньня партызан знаходзілася ў 1942 г. 60% сельскагаспадарчых угодзьдзяў: Meldungen.., № 38, 22.1.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 236/2725426. Гэта было грубае перабольшаньне, якое павінна было апраўдаць слабыя вынікі апэрацыі па вэрбоўцы работнікаў у Нямеччыну. Паводле савецкіх крыніц, у гэты час тэрыторыя, якую займалі і часткова кантралявалі партызаны, складала толькі 30% ад усяго беларускага абшару (гл. падразьдзел “Разьвіцьцё савецкага партызанскага руху”). Трэба мець на ўвазе, што гэты паказчык быў значна вышэйшы ўва ўсходніх раёнах Беларусі і нашмат ніжэйшы на землях генэральнай акругі.

[279] Беларуская Газэта. 1943. 18 сакавіка.

[280] Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 84/1322.

[281] Meldungen.., № 50, 16.4.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 236/2725815.

[282] Тамсама.

міналі гэтае пытаньне, а савецкія крыніцы, зацікаўленыя ў вынішчэньні гэтага нацыяналізму, замоўчвалі яго сьвядома.

Цікавую характарыстыку грамадзкіх настрояў прывёў Антон Адамовіч, тагачасны менскі журналіст:

> ...Думалася больш–менш усім, што горш жа, як пад саветамі, проста быць ня можа, дык і ня будзе, што “цяпер будзе йначай”, а мо нат і лепш хоць у сім–тым хоць бы для беларускае нацыянальнае справы, а з гледзішча яе — і для Беларусі наагул. Магчымасьці для гэтае справы, а, значыцца, і пэрспэктывы былі ж адчыніўшыся адразу — беларуская мова, прынамся, атрымала адразу ж статус адзінае афіцыйнае мясцовае мовы, прызнаванае за гэткую новым акупантам — толькі ў беларускай мове быў дапушчальны і друк, і тэатар, і школьніцтва. Бесьперашкодна дэманстраваліся й адпаведна ўшаноўваліся нацыянальныя эмблемы — бел–чырвона–белы сьцяг, гімн “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, герб Пагоні чаго, між іншага, не было на суседняй Украіне, і прыежджыя ды праежджыя ўкраінцы вельмі дзіваваліся з гэткага “нацыянальнага рэнэсансу” на Беларусі[283].

І сапраўды, нягледзячы на супрацiў бэрлінскіх уладаў і перашкоды з боку партызанскага руху, упартыя намаганьні Кубэ ў галіне беларусізацыі пачалі прыносіць усё больш і больш плёну. На другі год акупацыі было адчынена каля 30 сярэдніх школаў — агульнаадукацыйных і прафэсійных, яны сталі асяродкамі нацыянальнага выхаваньня моладзі, базаю СБМ. Выйшлі новыя газэты і часопісы, разьвівалася выдавецкая дзейнасьць, узьнікалі творчыя аб’яднаньні, аматарскія культурныя суполкі ў правінцыі, на добрым узроўні працаваў тэатар у Менску, у яго рамках была створана беларуская опэра. Усё гэта ўздымала нацыянальную сьвядомасьць сярэдняга грамадзяніна і асабліва моладзі. Такім чынам, без увагі на стаўленьне да “вялікай палітыкі”, расло процідзеяньне савецкай ідэалёгіі. Вынікі карных апэрацыяў не маглі стрымаць росту гэтай сьвядомасьці: паўсюдна асуджаліся ня толькі злачынствы карных атрадаў, але і прычыны, што іх выклікалі, — маральнага аўтарытэту савецкага партызанскага руху яны не павялічвалі. Варта адзначыць і тое, што рост нацыяналістычных настрояў адбываўся падчас адступленьня Вэрмахту на Ўсходнім фронце, калі ў грамадзтве расло перакананьне, што немцам ня ўдасца пазьбегнуць паразы.

Польскае падполье і мясцовае польскае насельніцтва ня ўсюды аднолькава ставіліся да гэтых тэндэнцыяў. Ужо ўвосень 1942 г. Галоўнае камандаваньне АК справядліва прадбачыла, што “пры захаваньні цяперашняга стану рэчаў нацыянальная сьвядомасьць беларускіх масаў будзе, напэўна, узрастаць”, таму было вырашана гэтыя тэндэнцыі абярнуць на карысьць Польшчы[284]. Тым часам кіраўніцтва Віленскай і Наваградзкай акруг АК, абапіраючыся, напэўна, на назіраньні мясцовага польскага насельніцтва, расцэньвала беларускі нацыяналізм як зьяву, варожую польскім інтарэсам на гэтых землях, зь якой неабходна весьці змаганьне[285]. Хутчэй за ўсё антыпольская кампанія, якую ў сярэдзіне 1942 г. паліцыя бясьпекі распачала, не зважаючы на пратэсты генэральнага камісара, дала падставы для такіх меркаваньняў[286]. Гэтая акцыя борзда парушыла сыстэму польска–беларускіх стасункаў, якую стварыў і падтрымліваў Кубэ. Папраўдзе, яна па–сапраўднаму не задавальняла ні адзін, ні другі бок, але на працягу многіх месяцаў яна забясьпечвала хаця б вонкавы спакой ува ўзаемаадносінах. Цяпер замест гэтага паліліся

[283] Адамовіч А. Жыцьцё і паэтычная спадчына Алеся Салаўя // Салавей А. Нятускная краса. Збор твораў. Нью–Ёрк—Мэльбурн, 1982. С. 299.
[284] Спэцыяльны рапарт ГК АК “Беларуская справа” генэралу Сікорскаму, вясна 1942 г., ЦА ЦК ПАРП, 202/III–201, k. 105.
[285] Prawdzic–Szlaski. S. 49—51.
[286] Рапарт Фрайтага з генэральнага камісарыяту ў Менску ад 28.6.1943, IMGN, Bd. XXXI, 3000–PS, S. 462.

ўзаемныя абвінавачваньні і прэтэнзіі, завісла атмасфэра антыпольскіх цкаваньняў, пачаліся новыя нацыянальныя канфлікты.

Увосень 1942 г. у Слоніме сярод польскай інтэлігенцыі 84 чалавекі былі расстраляныя, да канца акупацыі ў акрузе з працы выгналі каля 1000 палякаў — іх замянілі беларусамі[287]. Увесну 1943 г. тут каля 500 палякаў падалі прашэньне аб прызнаньні іх беларускай нацыянальнасьці[288]. У чэрвені 1942 г. у акрузе ўвялі грашовае пакараньне за выкарыстаньне ў працоўны час "іншай мовы" — г.зн. не беларускай ці нямецкай. Відаць, гэта не дапамагло, бо ў верасьні 1943 г. акруговы камісар Эрэн паўтарыў сваё распараджэньне і загадаў распаўсюдзіць яго па ўсіх установах гораду і Слонімскай акругі[289]. Акруговы камісар Наваградку падаваў, што 80% беларускага насельніцтва ставілася да палякаў адмоўна, адначасова ён наракаў, што звальненьне палякаў зь іх пасад прынесла вялікія цяжкасьці — гэта была "больш інтэлігентная і значна больш карысная для нас частка насельніцтва"[290]. У Наваградку 31.7.1942 г. таксама было расстраляна некалькі дзясяткаў палякаў, між іншым, некалькі ксяндзоў, а 1.8.1943 г. — 12 манашак[291]. Тое самае адбывалася і ў Вялейскай акрузе: улетку 1942 г. сярод польскай інтэлігенцыі тут загінула больш за 100 чалавек[292].

Бясспрэчна, паліцыйныя ўлады ад самага пачатку разьлічвалі ўцягнуць у антыпольскую кампанію беларускае насельніцтва. Не выпадкова ў канцы траўня 1942 г., г.зн. напярэдадні ўсёй акцыі, беластоцкая "Новая Дарога" апублікавала перадавы артыкул пад назваю "Больш актыўнасьці!" — ён быў разьлічаны на распальваньне варожасьці да палякаў і заклікаў беларусаў прыняць удзел у плянаваных "чыстках". Газэта, між іншым, пісала:

> Але і цяпер яшчэ вельмі часта мы сустракаемся з тым самым старым "польскім" духам сярод паасобных солтысаў, войтаў, паліцыі і службоўцаў, варожа настроеных да беларусаў. Гэтыя панове, займаючы да 1939 году тыя ці іншыя пасады ў адміністрацыі, відаць, забываюцца на тое, чый хлеб ядуць, і ўяўляюць сябе ў старой ролі. Прыкладаў гэткага стаўленьня можна знайсьці вельмі многа. Там, дзе ёсьць актыўныя беларусы, гэтыя стасункі вельмі хутка выпраўляюцца і справядліва ўладкоўваюцца нямецкімі ўладамі. Мы, аднак, не заўсёды выяўляем належную актыўнасьць. Менавіта гэтым у сапраўднасьці можна растлумачыць факт, што нават там, дзе жыве амаль 100% беларусаў, паміж нямецкаю ўладай і насельніцтвам часта стаіць польскі чыноўнік[293].

Такія палітычныя матывы ў будучыні павінны былі прывесьці да аслабленьня польскага элемэнту і ўзмацненьня беларускага, і яны знаходзілі водгук сярод часткі беларусаў — супрацоўнікаў адміністрацыі, паліцыі, а таксама дзяячоў БНС, якія рознымі шляхамі дапамагалі СД у ажыцьцяўленьні гэтай кампаніі. Пра гэта згадваюць ня толькі польскія, але і беларускія крыніцы[294]. Не выклікае сумненьняў удзел мясцовых арганізацыяў БНС у прызначэньні на працу ў Нямеччыне ў першую чаргу палякаў і нават беларусаў каталіцкага веравызнаньня, якіх падазравалі ў прапольскіх сымпатыях і абыякавасьці да "ад-

[287] Prawdzic–Szlaski. S. 104; справаздача камісара Слонімскай акругі ад 10.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/334.
[288] Раніца. 1943. 4 красавіка.
[289] Раніца. 1943. 19 верасьня.
[290] Справаздача камісара Наваградзкай акругі ад 3.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/257.
[291] Zienkiewicz A. Ofiara przyjęta. Rzym, 1968. S. 8, 14.
[292] А. К–а [Калодка]. Беларуска–польскія суадносіны ў Вялейшчыне // Зважай. 1981. № 2. Чэрвень. С. 4.
[293] Новая Дарога. 1942. 24 траўня.
[294] Prawdzic–Szlaski. S. 51; Zienkiewicz. S. 20; А. К–а [Калодка]. Беларуска–польскія суадносіны...

раджэньня Бацькаўшчыны”[295]. Трэба сказаць, што ўжо ў ліпені 1942 г. у вэрбоўчыя камісіі Заходняй Беларусі паліцыя пераслала загад — высылаць на працу ў райх найперш палякаў, так што гэтыя камісіі, напэўна, маглі абысьціся і без дапамогі БНС[296]. Значыць, яе ўдзел у адсылцы працоўнай сілы ў Нямеччыну паліцыя выкарыстоўвала дзеля распальваньня новых канфліктаў паміж польскім і беларускім насельніцтвам.

Ацэньваючы гэтыя падзеі, камандзір Віленскай акругі АК, палкоўнік Аляксандар Кжыжаноўскі (“Дзяміда”), пісаў у кастрычніку 1942 г.: “Беларусы гэтак жа, як і літоўцы, лічаць, што ад немцаў няма чаго спадзявацца, але супрацоўнічаюць зь імі, бо лічаць за больш карыснае для сябе зьнішчэньне польскага духу. Яны расцэньваюць гэта як расчыстку пляцдарму для сваёй будучай дзейнасьці”[297]. Кжыжаноўскі трапна акрэсьліў значэньне гэтай кампаніі ў зьмене кадравай сытуацыі ў Заходняй Беларусі, аднак, складаючы свой рапарт, яшчэ ня ведаў яе вынікаў. Толькі пасьля вайны стала вядома, што ў 1943 г. доля беларусаў у складзе адміністрацыйнага апарату ўзьнялася на землях генэральнай акругі да 80%, а ў паліцыі — да 60%[298]. Гэта былі вельмі значныя зьмены на карысьць беларусаў, тым больш, што ім выпала заняць кіраўнічыя пасады.

На рост перавагі беларусаў і аслабленьне польскіх пазыцыяў акоўскае падпольле адказала антыбеларускім тэрорам. Самых вялікіх памераў ён дасягнуў у Лідзкай акрузе. Паводле беларускіх крыніц, там загінула каля 1200 беларусаў[299]. Праўдзіц–Шляскі падае, што карны аддзел яго штабу ў гэты час выканаў 300 сьмяротных прысудаў над “здраднікамі і прадажнікамі”. Звычайна пад такую клясыфікацыю падпадалі праціўнікі адбудовы польскай дзяржаўнасьці на гэтых землях. Звыш таго, падначаленыя яму ячэйкі АК выдалі ў рукі гестапа і палявой жандармэрыі “чальцоў камуністычнай арганізацыі”, у выніку было арыштавана 80 чалавек, частку зь якіх расстралялі, а частку вывезьлі на працу ў Нямеччыну[300]. Нават калі гэтыя лічбы і не зусім дакладныя, яны даюць уяўленьне пра трагічны размах такіх падзеяў. Лідзкі акруговы камісар адзначаў, што “ў выніку тэрарыстычных акцыяў белапалякаў (*Weisspolen*) беларускі ўплыў неўзабаве зьнік, так што ўрэшце стала немагчыма прыцягнуць беларускія адміністрацыйныя сілы на кіраўнічыя пасады”[301]. Камісар дадаваў, што 500–асабовая дапаможная паліцыя ў гэтай акрузе па–ранейшаму складалася з палякаў, ён лічыў гэтых людзей за цалкам ненадзейны элемэнт. Напэўна, яны былі зьвязаныя з польскім падпольлем. Лідзкая акруга займала выключную пазыцыю па размаху і эфэктыўнасьці антыбеларускай тэрарыстычнай кампаніі на абшары ўсёй генэральнай акругі Беларусі. У іншых акругах, дзе беларусы ў вялікай ступені авалодалі апаратам, атрады АК да восені 1943 г. былі невялікія, а тэрарыстычныя акцыі здараліся досыць рэдка[302].

Магчыма, абвастрэньне нацыянальных адносін паміж беларускім і польскім насельніцтвам адбывалася ў адпаведнасьці з плянам RSHA, які быў скіраваны на ўзбуджэньне

[295] Інструкцыя кіраўніка аддзяленьня БНС у Баранавічах ад 18.11.1942 // Раманоўскі В. Саўдзельнікі... С. 107.

[296] Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 235/2724565.

[297] Рапарт “Дзяміда”, зроблены ў кастрычніку 1942, ЦА ЦК ПАРП, 202/1–32, k. 120.

[298] Rydlevski L. Biélorussie. Paris, 1948. P. 23.

[299] [Станкевіч Ян.] Палажэньне ў Лідзкай акрузе генэральнага камісарыяту Беларусі // Летапіс. Нью–Ёрк. 1985. № 28. С. 90. Шмат канкрэтных зьвестак у гэтай справе зьмяшчае “Беларуская Думка” (Нью–Ёрк—Саўт–Рывэр), 1960. № 1.

[300] Prawdzic–Szlaski. S. 66, 93.

[301] Справаздача камісара Лідзкай акругі 15.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, R–102/162—165.

[302] Лічыцца, што самай вялікай акцыяй АК было ўзяцьце мястэчка Жодзішкі ў жніўні 1943 г. У гэтай акцыі, апрача некалькіх беларускіх паліцыянтаў, якія загінулі ў баі, былі забіты жонка і двое дзяцей камандзіра паліцыі Віктара Каркоза і даваенны каталіцкі беларускі дзяяч Тамаш Трызна, якога застрэлілі ў ложку. Гл.: Калодка А. Напад палякаў на Жодзішкі // Зважай. 1979. Лістапад.

варожасьці паміж усімі народамі былых “крэсаў усходніх”. Пра гэта сьведчаць аналягічныя падзеі ў Заходняй Украіне і літоўскай Віленшчыне. Апэрацыя, што прайшла на Беларусі, была ўсяго толькі мініятурай у параўнаньні з той, што адбывалася на польска–украінскіх землях, аднак і яна прывяла да паглыбленьня ўзаемнай варожасьці. Апрача гэтага, на настроі беларусаў таксама ўплываў заняпад палітычнага прэстыжу Польшчы пасьля таго, як СССР разарваў стасункі з урадам генэрала Сікорскага — пра гэта паведамлялі акоўскія крыніцы[303].

Сярод беларускіх палітычных згуртаваньняў “на радасьць і на гора” зьвязалі свой лёс з трэцім райхам групы Акінчыца і Ермачэнкі. Абодва яны былі людзьмі Розэнбэрга, перад якімі ён паставіў прыкладна аднолькавую задачу: актывізацыя беларускага нацыяналізму, мабілізацыя матэрыяльных і духоўных сілаў народу на барацьбу з бальшавізмам, а ў будучыні — стварэньне пад крылом пераможнай Нямеччыны асобнай беларускай дзяржавы. Палітычнае крэда Акінчыца гучала наступным чынам:

> Мы, беларусы, не павінны глядзець на гэтую вайну з гледзішча вылучна беларускіх інтарэсаў... Мы павінны ўсьведаміць сабе, што вайна вядзецца ў імя будучыні ўсяго культурнага сьвету. Ад таго, якая сіла возьме верх, будзе залежаць лёс усіх народаў. Гэта зусім зразумела, і таму мы ня можам абмежавацца фальшывай у сваёй сутнасьці формулаю: “Пачакаем і паглядзімо, якая сіла будзе карысьнейшаю для беларускай справы...” Апрача ўсяго іншага, вайна вядзецца за перабудову Эўропы на новых гаспадарчых і палітычных падставах. Якая б гэтая Эўропа ні была ў бліжэйшай будучыні, нам, беларусам, шкадаваць даваеннай Эўропы не даводзіцца. Нічога ў ёй мы ня мелі і мець не маглі... У сваім краі, дзе ніколі мы ня мелі ніякіх магчымасьцяў да нацыянальнае, ня толькі паводле духу і зьместу, але і паводле формы, працы — цяпер мы гэтую магчымасьць маем. А гэта ў сучасны момант плюс вельмі важны[304].

Акінчыц зьвязваў усе свае палітычныя надзеі з трэцім райхам і падкрэсьліваў, што “лёс беларускай справы залежыць выключна ад лёсу антыбальшавіцкага фронту”. Ён рашуча паўставаў супраць тых беларускіх дзяячоў, што не падзялялі яго спадзяваньняў на нямецкую перамогу, а разьлічвалі на іншыя пэрспэктывы заканчэньня вайны і адначасова імкнуліся ўзмацніць свае нацыянальныя пазыцыі ўва ўмовах акупацыі. Акінчыц, такім чынам, заклікаў змагацца ня толькі з савецкім падпольлем і яго прыхільнікамі, ён дамагаўся ліквідацыі дзяячоў, “якія хацелі б займаць залатую сярэдзіну”.

Гэтыя прынцыпы Акінчыц імкнуўся рэалізаваць з дапамогаю сваіх людзей, асабліва тых, што працавалі ў прапагандысцкім апараце беларускіх акруговых камісараў. Паводле шматлікіх сьведчаньняў, гэта былі самыя апантаныя даносчыкі, якія прыкладалі руку да беспасярэдняга зьнішчэньня сваіх палітычных праціўнікаў альбо вывазу іх у Нямеччыну. Бясспрэчна, гэтая “бескампраміснасьць” адлюстроўвала мізэрнае грамадзкае значэньне нацыянал–сацыялістычнай групы Акінчыца, якое ён спрабаваў узмацніць шляхам ліквідацыі патэнцыйных канкурэнтаў.

Ермачэнка, хоць і быў далёкі ад “залатой сярэдзіны”, усё ж такі лічыўся з грамадзкімі настроямі і бачыў поўную непрыдатнасьць догмаў Акінчыца для практычнай дзейнасьці. Найперш — прагматык, ён спрабаваў пагадзіць інтарэсы нямецкай палітыкі з нацыянальнымі імкненьнямі беларусаў. Пры гэтым яго поўнасьцю падтрымліваў Кубэ. Але і Ермачэнку не ўдалося дасягнуць шырокага грамадзкага прызнаньня. Сучасныя крыніцы зьвязваюць гэта з даволі нязначнай колькасьцю сяброў БНС. На самай справе ў зэніце ягонай кар’еры, г.зн. у кастрычніку 1942 г., лічба сяброў БНС не перавышала і 30 тысяч[305]. Аднак

[303] Рапарт БІП “Нацыянальныя справы за пэрыяд 15.3.—15.7.1943”, ЦА ЦК ПАРП 202/III–11, k. 2; Рапарты з усходніх раёнаў за ліпень і жнівень 1943. Тамсама, к. 139, 255.
[304] Акінчыц Ф. Увагі на часе // Беларуская Газэта. 1943. 28 сакавіка — 8 красавіка.
[305] Раніца. 1943. 10 студзеня.

гэты паказчык не адлюстроўваў усёй праблемы і ня быў вызначальным у яе вырашэньні. Сярод насельніцтва панаваў настрой чаканьня: у які бок перавесяцца шалі на Ўсходнім фронце? Да таго ж БНС не змагла дабіцца неабходных паўнамоцтваў у адміністрацыйнай і вайсковай галіне. Пазыцыю Ермачэнкі, як і пазыцыю Акінчыца, маглі ўмацаваць адпаведныя рашэньні з Бэрліна — яны абодва спадзяваліся на гэта і паміж сабой вялі бескампрамісную барацьбу. Увесну 1943 г. настала яе разьвязка: у сакавіку Акінчыц быў забіты ў выніку замаху, а ў красавіку Ермачэнка быў вымушаны пакінуць Беларусь.

Крытыка Акінчыца магла быць скіравана супраць Партыі беларускіх нацыяналістаў (ПБН), якую ўзначальвалі Вацлаў Іваноўскі і Ян Станкевіч. І сапраўды, яны разьлічвалі, што параза Нямеччыны найперш адбудзецца на Заходнім фронце і яна капітулюе перад Злучанымі Штатамі і Вялікай Брытаніяй, і менавіта ад гэтых краін трэба спадзявацца на падтрымку для беларускай незалежніцкай ідэі. У 1942 г. такая канцэпцыя выглядала ня менш рэальна, чым стаўка Акінчыца і Ермачэнкі на перамогу Нямеччыны, больш за гэта — яна супадала з аналягічнымі канцэпцыямі шмат якіх некамуністычных згуртаваньняў ува Ўсходняй Эўропе. З разьлікам на такі ход падзеяў ПБН плянавала за час акупацыі стварыць неабходныя для ажыцьцяўленьня сваёй ідэі перадумовы: на першым месцы сталі задачы апанаваньня адміністрацыі, стварэньне беларускіх узброеных сілаў і прапагандысцкая апрацоўка насельніцтва. У вялікай ступені гэтага ўдалося дасягнуць шляхам супрацоўніцтва з акупацыйным рэжымам, таму на Беларусі, як і ў Прыбалтыцы, па сутнасьці не адбылося стварэньня антынямецкага нацыянальнага партызанскага руху[306].

Іваноўскі, які займаў пасаду менскага гарадзкога старшыні, а з канца чэрвеня 1943 г. яшчэ і старшыні Камітэту даверу, вёў вельмі тонкую гульню. Пад канец 1941 г. ён прыняў на працу ў Менскай гарадзкой управе афіцэра 2–га аддзелу ГК АК Вітальда Буткевіча ("Бэрнард", "Гурыновіч"), а ў лютым 1942 г. — Гражыну Ліпінскую ("Данута"), якая неўзабаве ўзначаліла акоўскую экспазытуру ў Менску. Ён аблегчыў выведнікам іх працу, запрасіўшы на такія пасады, дзе яны ня толькі трымалі пад кантролем свае раёны, але ў дадатак мелі доступ да гаспадарчай інфармацыі вайсковага значэньня. У канцы 1942 г. Іваноўскі выкарыстаў свае магчымасьці, каб вырваць з рук гестапа Буткевіча, якога арыштавалі па даносе за прыналежнасьць да польскага падпольля, перасьцярог польскіх дывэрсантаў ад учынкаў, якія маглі парушыць канспірацыю. Паводле сьведчаньняў удзельнікаў польскага падпольля ў Менску, ад Іваноўскага яны атрымлівалі бясспрэчна вялікую дапамогу[307]. Пры такіх абставінах яго колішняя адмова ад супрацоўніцтва з ЗУБ, аб якой ён паведаміў Зану ў верасьні 1941 г. ("Я вам дапамагаць ня буду, але і перашкаджаць ня буду"), магла азначаць жаданьне захаваць як мага большую самастойнасьць стасоўна кіраўнікоў польскага падпольля: ён хацеў быць партнэрам, а не падначаленым[308].

[306] Паводле С. Хмары, беларускі партызанскі рух паўстаў у 1941 г. на Палесьсі пад камандаваньнем падпалкоўніка Шанька. У гэтым руху ўдзельнічала каля 3000 чалавек. Ён існаваў да канца 1943 г., пакуль ня быў разьбіты савецкімі партызанамі. Аднак гэты партызанскі рух не праводзіў актыўных нападаў на немцаў. Гл.: Беларускі Голас. 1982. Ліпень і 1985. Студзень.

[307] Жыцьцё і палітычная дзейнасьць праф. Вацлава Іваноўскага. Дыскусія на пасяджэньні Сэнацкай камісіі гісторыі і традыцыі Варшаўскага політэхнічнага інстытуту 14.2.1984 г. (паведамленьні Ліпінскай Г., Мойжук М., Буткевіча В.), Archiwum Pracowni II wojny światowej IH PAN, sygn. A 722/85.

[308] Гэтая самастойнасьць Іваноўскага мела, зрэшты, і адмоўныя вынікі, непазьбежныя ўва ўмовах канспірацыі. Пра гэта сьведчыць наступнае беспадстаўнае меркаваньне, выказанае віленскім аддзяленьнем дэлегатуры эміграцыйнага ўраду пасьля сьмерці прафэсара: "Праф. Іваноўскі на пасадзе старшыні беларускай Рады даверу быў паслухмяным выканаўцам нямецкіх жаданьняў, да канца жыцьця ён верыў у магутнасьць немцаў, у іх перамогу... Падчас панаваньня праф. Іваноўскага што да польскага насельніцтва нязьменна праводзілася лінія перасьледаваньняў". Гл.: ЦА ЦК ПАРП, 202/XVI–2, k. 5. Ня больш праўды было і ў абвінавачваньнях беларускіх апазыцыянэраў, паводле якіх Іваноўскі быў "польскім агентам", які дзейнічаў на шкоду беларускаму народу: Галяк Л. Успаміны. ЗША, 1982. Т. 2. С. 62.

Варта спыніцца на дапамозе, аказанай Іваноўскім польскаму падпольлю ў Менску, зь дзьвюх прычын. Па–першае, гэта ілюструе яго фактычнае стаўленьне да нямецкіх інтарэсаў, якія ён выразна не падтрымліваў. Па–другое, ён не разьлічваў на пасярэдніцтва акоўскай экспазытуры ў арганізацыі кантактаў паміж ПБН і кіраўніцтвам польскага падпольля, калі прымаў іх на працу ў Менскую гарадзкую ўправу. Вырашальную ролю ў гэтай справе адыграў Кастравіцкі, які пасьля сустрэчы ў Менску ў канцы 1941 г. дапамог перададолець нежаданьне размаўляць зь беларусамі ў Галоўным камандаваньні АК. Вясною 1942 г. пры ўдзеле Кастравіцкага было апрацавана спэцыяльнае данясеньне, прысьвечанае беларускай праблеме, гэты рапарт праз Галоўнае камандаваньне быў перасланы Сікорскаму. У ім паведамлялася, што некаторыя беларускія дзяячы шукаюць кантактаў з польскім падпольлем, каб дасягнуць паразуменьня ў справе супольнай абароны ад Расеі, вызваленьня ўсёй Беларусі з дапамогаю Польшчы і заключэньня з Польшчай цеснай фэдэрацыі. У рапарце прапаноўвалася тэрмінова ўвайсьці ў кантакт з гэтымі дзяячамі[309].

Размовы прадстаўнікоў ГК АК і ПБН распачаліся з ініцыятывы беларусаў у ліпені 1942 г. у Менску, яны працягваліся ў студзені 1943 г. у Варшаве, а пад канец таго ж году — у Вільні[310].

Прадстаўнік ПБН — Ян Станкевіч — спрабаваў зацікавіць кіраўніцтва польскага падпольля і польскі ўрад у Лёндане пэрспэктывамі стварэньня беларускай дзяржавы на тэрыторыі, якая б ахоплівала, у прынцыпе, увесь беларускі моўны абшар, гэта азначала, што заходняя мяжа плянаванай дзяржавы праходзіла б уздоўж лініі Керзона. Пасьля вайны Беларусь заключыла б з Польшчай міждзяржаўны саюз, так што прадстаўляць яе перад сьветам павінна было супольнае міністэрства замежных справаў. Дзейнічаць самастойна на міжнароднай арэне ПБН не магла, таму прадстаўляць беларускія справы перад брытанскім кабінэтам павінен быў, згодна з праектам, польскі ўрад у Лёндане. Такім чынам, Польшча стала б галоўным архітэктарам будучай беларускай дзяржавы. З другога боку, Польшча атрымлівала б магчымасьць гэтай самай дзяржавай адгарадзіцца ад Расеі. Пасьля далучэньня да праекту Украіны ўва Ўсходняй Эўропе магла б паўстаць цалкам новая палітычная сыстэма.

Уся гэтая далёкасяжная ідэя ў галоўных абрысах паўтарала канцэпцыю Пілсудзкага 1919—1920 г. і сьведчыла пра тое, як моцна адбіўся колішні праект у сьвядомасьці Іваноўскага і іншых беларускіх палітыкаў. Яны рабілі стаўку перш за ўсё на антыбальшавізм Чэрчыля і яго зацікаўленасьць у спыненьні камуністычнай экспансіі ў Эўропе. Аднак беларусы недаацэньвалі фармальна–праўных аспэктаў Рыскага трактату, а менавіта яны вызначалі пазыцыю прадстаўнікоў Галоўнага камандаваньня АК і варшаўскай дэлегатуры эміграцыйнага ўраду. Таму на перамовах палякі былі гатовыя даць гарантыі на пазьнейшае пашырэньне ўдзелу беларусаў у адміністрацыі і гаспадарчым жыцьці, належнае задавальненьне іх патрэбаў у галінах мовы, культуры, школьніцтва і рэлігіі, аднак беларусы пры гэтым павінны былі заставацца нацыянальнай меншасьцю ў пасьляваеннай польскай дзяржаве з даверасьнёўскімі межамі на ўсходзе.

Даволі рана пачаў дабівацца кантактаў з кіраўнікамі польскага падпольля і Радаслаў Астроўскі. 21.11.1942 г. ён спатыкаўся ў Варшаве з Уладзіславам Тамкевічам (“Кшыштафам”), дзяячом БІП. Ад імя беларускага згуртаваньня “Цэнтар” ён прапанаваў наладзіць перамовы, якія прывялі б да супрацоўніцтва на аснове фэдэрацыі і польскай дапамогі ў пабудове беларускай дзяржавы. Адначасова Астроўскі перасьцярог Тамкевіча ад кантактаў з Акінчыцам, кс. Гадлеўскім і Ермачэнкам, ён казаў, што гэтыя дзяячы “знаходзяцца цалкам у руках акупанта і стаяць па–за рамкамі незалежніцкай барацьбы”. Пра Я. Станкевіча ён таксама гаварыў зьняважліва. Такім чынам, ён імкнуўся зьняславіць у вачох

[309] Спэцыяльны рапарт ГК АК “Беларуская справа”, ЦА ЦК ПАРП, 202/III–201, k. 105.

[310] Разьвіцьцё гэтых перамоў аўтар прывёў у артыкуле “Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944)”. Гл. с. 464—484 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

польскага падпольля сваіх палітычных працўнікаў, а заадно прадэманстраваў прываблівую “падатлівасьць” у тэрытарыяльных і іншых пытаньнях. “Інтэлігенцкія кадры ў нас слабыя, — казаў Астроўскі, — таму Польшча павінна дапамагчы ў гэтай справе, высылаючы на гэтую тэрыторыю сваіх людзей, якія б былі большымі беларусамі за саміх беларусаў”[311]. У Тамкевіча засталося ад размовы непрыемнае ўражаньне і асьцярога, што гэта была правакацыя. Пасьля ГК АК праігнаравала прапанову Астроўскага.

Перамовы прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных згуртаваньняў з польскім падпольлем адбываліся падчас розных сытуацыяў на фронце: калі нямецкія войскі рваліся на Волгу і Каўказ, цярпелі паразу пад Сталінградам, каціліся назад, на Захад. Мянялася і палітычнае становішча польскага ўраду: саюзьніцтва з СССР перайшло ў варожую адчужанасьць пасьля разрыву стасункаў. Аднак ні пры якіх абставінах паразуменьня дасягнуць не ўдалося. Беларусы не маглі пагадзіцца на аднаўленьне Рыскай мяжы і новы падзел сваёй краіны, палякі не прымалі канцэпцыі фэдэралізму ў такой ступені, якая прапаноўвалася на перамовах: спачатку галоўнаю перашкодай тут былі стасункі з СССР, пазьней — нерэальнасьць самога праекту. Такім чынам, слабела значэньне Польшчы як альтэрнатыўнага фактару ў палітычных меркаваньнях беларускіх нацыяналістычных груповак. Стаўка на Нямеччыну ўсё яшчэ здавалася больш прывабнай.

## IV. Напярэдадні татальнай катастрофы

### Апошні этап акупацыі (верасень 1943 — ліпень 1944)

Пералом у вайне, які пачаўся пад Сталінградам, пасьля Курскай бітвы (5.7.—23.8.1943) вызначыўся канчаткова. Савецкія ўзброеныя сілы здолелі перайсьці ў контранаступ па ўсёй лініі фронту. У верасьні—кастрычніку Чырвоная Армія заняла амаль усю тэрыторыю левабярэжнай Украіны і 6 лістапада ўвайшла ў Кіеў. На цэнтральным участку фронту 17 верасьня быў заняты Бранск, 21 — Чарнігаў, 25 — Смаленск, а назаўтра — Хоцімск, раённы горад Беларусі. 26 лістапада Чырвоная Армія ўвайшла ў Гомель, у сьнежні апынулася перад брамамі Віцебску, а 14 студзеня заняла Калінкавічы і Мазыр на Палесьсі. З гэтага часу аж да наступнай буйной апэрацыі ў чэрвені 1944 г. лінія фронту перарэзала Беларусь на дзьве часткі. Затое на поўдні наступ савецкіх войскаў не спыняўся, так што ў студзені 1944 г. перастаў існаваць райхскамісарыят Украіны.

Перамогі Чырвонай Арміі і высадка саюзьніцкага дэсанту на Сыцыліі[1] неўнікнёна павінны былі прывесьці да паразы трэцяга райху. У прадчуваньні гэтай катастрофы 3.9.1943 г. Італія абвясьціла аб сваёй капітуляцыі. 19—30 кастрычніка ў Маскве адбылася канфэрэнцыя міністраў замежных справаў СССР, Вялікай Брытаніі і Злучаных Штатаў Амэрыкі, дзе была прынята дэкларацыя аб вядзеньні вайны аж да поўнай капітуляцыі Нямеччыны і яе саюзьнікаў. Кіраўнікі ўрадаў вялікай тройкі пацьвердзілі гэтае рашэньне на канфэрэнцыі ў Тэгеране (28.11.—1.12.1943). Для Нямеччыны гэта азначала ня проста паразу, але поўны, татальны разгром. Такім чынам, пад канец 1943 г. ваеннае і палітычнае становішча зьмянілася кардынальна, разьлічваць на паўтарэньне сытуа-

[311] Рапарт “Кшыштафа” ад 23.11.1942, ЦА ЦК ПАРП, 202/II–22, k. 116.

[1] Высадка саюзьнікаў у Сыцыліі адбылася падчас Курскае бітвы (10.07.1943). Наступствам гэтай апэрацыі быў арышт Б. Мусаліні (25 ліпеня). Калі 3 верасьня амэрыкана–брытанскія войскі высадзіліся на поўдні Апэнінскае паўвыспы, Італія выйшла з вайны. Гэта змусіла Гітлера зьняць войскі зь іншых франтоў і ўвесьці іх у Паўночную Італію. — *А.С.*

цыі, што склалася пад канец першай сусьветнай вайны[2], было ўжо немагчыма, ранейшыя пляны страцілі пад сабою грунт. Вымалёўваўся ўпэўнены абрыс будучыні: уваход чырвоных войскаў у Нямеччыну, а значыць — і ўва Ўсходнюю Эўропу.

Але і ў гэтай сытуацыі Гітлер не рашыўся зьмяніць сваёй ранейшай ўсходняй палітыкі. Напэўна, на гэтую пазыцыю ўплывалі яго асабістая ўпартасьць, і палітычнае дактрынэрства. Аднак усё гэта ня можа вытлумачыць праблемы да канца. Становішча на фронце напярэдадні 1944 г., калі большая частка Ўкраіны і амаль адна пятая Беларусі ўжо былі страчаныя, не пакідала ілюзій: ніякія новыя палітычныя ініцыятывы зьмяніць яго ўжо не маглі. Супрацьстаяць Чырвонай Арміі нямецкія войскі былі ня ў стане, таму любыя дэкларацыі нямецкага ўраду наконт будучыні ўсходніх народаў ніхто б сур'ёзна не ўспрыняў, і Гітлер асьцерагаўся рабіць такія заявы — цяпер яны толькі лішні раз засьведчылі б слабасьць трэцяга райху. Фюрэр па–ранейшаму быў супраць фармальнага стварэньня прадстаўнічых органаў усходніх народаў. Ён адхіліў гімлераўскі праект наданьня абмежаванай аўтаноміі Эстоніі і Латвіі[3].

Пазыцыя Гітлера не зьмянілася, і ўсходняя палітыка Нямеччыны каціласа па старой каляіне. Яна па–ранейшаму зводзілася да эксплюатацыі гаспадарчага і чалавечага патэнцыялу акупаваных земляў. Нямецкія ўлады жадалі шырэй выкарыстаць мясцовыя сілы дзеля спраў абароны, аднак часта іх стараньні не прыносілі чаканых вынікаў. Ваенныя няўдачы Вэрмахту толькі вышэй узьнялі хвалю дэзэртэрстваў сярод салдат Осттрупэн. Увосень 1943 г. гэта спарадзіла сапраўдны крызіс даверу да такіх часьцей. У кастрычніку сярод чальцоў вышэйшага камандаваньня Вэрмахту паўстала думка, што лепш увогуле ня мець ніякіх дапаможных атрадаў, чым мець такія, якія здраджваюць у крытычны момант і пераходзяць на бок партызан. Аднак людзкія патрэбы Нямеччыны былі настолькі вялікія, што распусьціць Осттрупэн Вэрмахт не рашыўся. Замест гэтага большасьць зь іх перакінулі з савецкай тэрыторыі на Захад: у Францыю, Галяндыю, Італію і на Балканы[4].

Гэты недавер да Осттрупэн, бадай, і прывёў да таго, што паўнамоцтвы па стварэньні мясцовых фармаваньняў на ўсходзе перайшлі ў рукі Гімлера: меркавалася, што пад эгідаю СС удасца арганізаваць больш надзейныя паліцыйныя нацыянальныя адзінкі[5]. Натуральна, такое рашэньне павялічвала значэньне СС на ўсіх землях акупацыі. У жніўні 1943 г. шэф Галоўнай управы СС Бэргер, які раней быў сувязным афіцэрам Гімлера ў міністэрстве Розэнбэрга, цяпер атрымаў пасаду шэфа дэпартамэнту палітыкі ОМі (з гэтага моманту перайменаванага ў *Führungstab Politik*) і стаў такім чынам фактычным кіраўніком нямецкай усходняй палітыкі. Істотных зьменаў у палітыцы з гэтага, праўда, не адбылося. Тым ня менш менавіта гэтае прызначэньне перадвызначыла ходу шмат якіх падзеяў на Беларусі, асабліва пасьля забойства Кубэ.

Пасьля начнога выбуху ў доме гаўляйтэра абавязкі генэральнага камісара Беларусі пачаў выконваць Готбэрг як фактычны HSSPF RM und WR. Гэта адпавядала пагадненьню паміж Гімлерам і Розэнбэргам, якое было заключана 19.11.1941 г. на выпадак адсут-

---

[2] Нягледзячы на тое, што ў траўні 1917 г. у вайну ўступілі ЗША, сілы саюзьнікаў былі аслабленыя выхадам з кааліцыі Расеі, дзе да ўлады прыйшлі бальшавікі. Гэта дазволіла Нямеччыне і Аўстра–Вугоршчыне ня толькі пратрываць яшчэ цэлы год, але нават павесьці наступ на Ўсходнім фронце ў лютым і на пачатку вясны 1918 г. — *А.С.*

[3] Madajczyk Cz. Faszyzm i okupacje 1938—1945. Wykonywanie okupacji przez państwa Osi w Europie. T. I. Poznań, 1983. S. 617.

[4] Dallin A. German Rule in Russia 1941—1945. A Study of occupation Policies. London, 1957. S. 582—583.

[5] У канцы 1943 г. шляхам мабілізацыі павялічылі свае сілы эстонскія і латыскія атрады СС, было збольшага ўжо скончана фармаваньне ўкраінскай дывізіі СС у Галіччыне. Затое ў выніку супрацыву мабілізацыі не ўдалася спроба стварэньня літоўскага атраду СС, зь цяжкасьцю пасоўвалася справа фармаваньня паліцыйных батальёнаў на Беларусі.

насьці кіраўніка цывільнай адміністрацыі[6]. 25.9.1943 г. Розэнбэрг пацьвердзіў паўнамоцтвы Готбэрга як намесьніка генэральнага камісара[7]. Аднак само фармальнае прызначэньне мог выканаць толькі Гітлер — так значылася ў яго дэкрэце ад 17.9.1941 г. аб арганізацыі цывільнай адміністрацыі на акупаваных землях СССР. Даўняя варожасьць паміж Гімлерам і ОМі і тут прывяла да новай сваркі. У кастрычніку 1943 г. Розэнбэрг пасьля ўзгадненьня зь Лямэрсам вырашыў прапанаваць на пасаду генэральнага камісара кандыдатуру свайго супрацоўніка — Шыкеданца. Але Бэргер, зацікаўлены ў тым, каб прывесьці на гэтае месца чалавека СС, рашуча запярэчыў[8]. На думку Даліна, Гітлер пад націскам СС пайшоў на саступку, таму Готбэрг захаваў сваю пазыцыю[9]. Аднак гэта не зусім дакладнае цьверджаньне: да канца вайны Гітлер так і не падпісаў таго прызначэньня, і Готбэрг па–ранейшаму толькі выконваў абавязкі генэральнага камісара Беларусі[10]. Цяжка сказаць, чаму так атрымалася. Магчыма, Гітлер не хацеў надаць такой ролі СС, а магчыма, палічыў усю справу за ня вельмі важную ў тагачаснай ваеннай сытуацыі.

Новае становішча на фронце стварала новыя спэцыфічныя праблемы ў галіне кіраўніцтва. Па–першае, восеньню 1943 г. значна паменшала тылавая зона групы армій “Цэнтар”, а па–другое, ад колішняга RKU ў немцаў застаўся толькі невялічкі паўночна–ўсходні кавалак — Берасьцейская, Пінская і Кобрынская акругі. Таму Готбэргу была перададзена ўлада ня толькі на абшары генэральнай акругі, але і цывільныя справы ўва Ўсходняй Беларусі, там, дзе яшчэ гаспадарыў Вэрмахт, а ў лютым — з згоды Гітлера — ён часова прыняў пад сваё кіраўніцтва і засталыя тры паветы RKU[11]. Фармальна гэтыя “набыткі” на ўсходзе і на поўдні так і не былі ўключаны ў адміністрацыйны склад Генэральнай акругі Беларусі, якая па–ранейшаму заставалася часткаю райхскамісарыяту Остлянд.

Спэцыфічны характар падначаленага Готбэргу абшару, які ў вялікай ступені быў прыфрантавой зонай, быў вызначальнай перадумовай незалежнасьці пазьнейшых яго паводзінаў. Да таго ж ён быў чалавекам СС, прэстыж ведамства значна пашыраў яму свабоду яго ўчынкаў. Ён мог ігнараваць залежнасьць ад уладаў RKO і адначасова — карыстацца шырокімі паўнамоцтвамі, якія Розэнбэрг прызнаў за генэральным камісарам Беларусі ў траўні 1943 г. Готбэрг імкнуўся вывесьці Беларусь з–пад фармальнага падначаленьня Остлянду, каб беспасярэдне падпарадкоўвацца Бэрліну. 1.4.1944 г. Гітлер выдаў дзеля гэтага спэцыяльны дэкрэт і тым самым узаконіў становішча, якое рэальна існавала з той пары, як памёр Кубэ[12]. Варта заўважыць, што гэты дэкрэт ня быў апублікаваны і, такім чынам, не выкарыстоўваўся прапагандай.

Готбэрг не зьбіраўся працягваць палітычны курс Кубэ[13]: ні Гітлер, ні Гімлер не былі прыхільнікамі палітычнага супрацоўніцтва з славянскімі народамі. Да таго ж станавілася зразумела, што Вэрмахту ня ўдасца ўтрымаць у сваіх руках тэрыторыю Беларусі. Готбэрг прадбачыў, што неўзабаве давядзецца праводзіць эвакуацыю, і за-

[6] Ліст Гімлера да Розэнбэрга ад 19.11.1941, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 29/1182. Ліст датычыць кампэтэнцыі HSSPF на акупаваных усходніх землях.

[7] Deutsche Zeitung im Ostland. 26.9.1943.

[8] Ліст Бэргера да Гімлера ад 19.10.1943 // Trials of War Criminals before the Nuernberg Military Tribunals. Washington. Vol. XIII. 1952. P. 530.

[9] Dallin. P. 221.

[10] Да канца акупацыі Беларусі ён падпісваўся як в.а. генэральнага камісара // Amtsblatt des Generalkommissars für Weissruthenien. 1944.

[11] Тэлеграма Готбэрга ў ОМі ад 15.2.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 31/052; Рашэньне Гітлера. Тамсама, r. 31/055.

[12] Erlass des Führers über die Ausgliederung des GB Weissruthenien aus dem Reichskomissariat Ostland, 1.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/519.

[13] Kleist P. Zwischen Hitler und Stalin 1939—1945. Bonn, 1950. S. 175.

гадзя распарадзіўся, каб галоўныя аб’екты ў Менску былі замінаваныя[14]. Прапанова маршала Буша наконт адступленьня да лініі Бярэзіны дзеля скарачэньня працягласьці фронту толькі ўзмацніла настрой няпэўнасьці. І хаця Гітлер адкінуў гэтую прапанову і загадаў не здаваць беларускай тэрыторыі, яго распараджэньне, як і шмат папярэдніх, не магло ўжо стрымаць нямецкага адыходу. Працягваць палітыку Кубэ папросту ня мела сэнсу.

Готбэрг не жадаў рабіць стаўку на беларускі нацыяналізм і меў на гэта яшчэ і асабістыя прычыны, асабліва — недавер, дакладней кажучы, варожасьць да старшыні Камітэту даверу — Вацлава Іваноўскага. Готбэрг не забыўся, як сябры Камітэту выступалі з пратэстам супраць барбарскіх мэтадаў карных атрадаў СС на сумесным пасяджэньні ў жніўні 1943 г. Былі ў яго і іншыя нагоды для падазрэньняў. Дэлегацыя Камітэту (Іваноўскі, Сабалеўскі, Калубовіч) прымала ўдзел у пахаваньні Кубэ ў Бэрліне. 25 верасьня гэтыя дзяячы мелі спатканьне з сталым намесьнікам Розэнбэрга, Альфрэдам Мэерам, і прапанавалі яму праект аб прызнаньні аўтаноміі Беларусі і ўзьяднаньня яе тэрыторыі[15]. Гэты візыт не ўзгадняўся з Готбэргам, бо адбываўся ён у момант “міжцараваньня” і мог расцэньвацца як спроба вынесьці на суд ОМі вельмі непрыемную для СС інфармацыю пра вынікі карных экспэдыцыяў на Беларусі. Таму пераемнік Кубэ цалкам ігнараваў Камітэт даверу і нават выношваў намер яго роспуску.

Такім чынам, у першыя тыдні свайго праўленьня Готбэрг не выказваў намеру палітычнага супрацоўніцтва зь беларусамі. Выведка Арміі Краёвай адзначала гэтыя тэндэнцыі на Беларусі. У лістападзе яна паведамляла:

> Саступкі, зробленыя гаўляйтэрам Кубэ (стварэньне Рады даверу, Саюзу беларускай моладзі, Навуковага таварыства і г.д.), фармальна стаяць пад пытальнікам, прычынаю — сьмерць гаўляйтэра, а таксама — набліжэньне фронту. Генэральная акруга Беларусі будзе ліквідаваная і трапіць, прынамсі часткова, пад кіраўніцтва палявога камандаваньня — з гэтым трэба лічыцца[16].

У іншым данясеньні таго пэрыяду гаварылася: “Палітычныя штабы беларусаў і літоўцаў ужо задумваюцца аб эміграцыі... Усе беларускія ўстановы з Магілёва, Менску і да т.п. альбо распушчаныя, альбо эвакуаваныя і развальваюцца самі”[17].

Напэўна, Готбэрг разьлічваў на тое, што свае асноўныя праблемы: барацьбу з партызанамі і выкарыстаньне гаспадарчых рэсурсаў Беларусі — ён здолее выканаць і без дапамогі палітычных сродкаў. Такая лінія цалкам супадала з пазыцыяй Бэрліна. Зь вясны 1943 г. у руках Готбэрга апынулася практычна ўся паліцыйная ўлада на землях генэральнай акругі Беларусі і Ўсходняй Беларусі. Цяпер ён хацеў поўнасьцю падпарадкаваць сабе і гаспадарчую дзейнасьць і ня толькі на тэрыторыі цывільнай адміністрацыі, але і ў зоне вайсковай адміністрацыі.

У выніку, на цэнтральным участку фронту ўжо ў лістападзе 1943 г. вайсковая гаспадарчая інспэкцыя была распушчана, а яе супрацоўнікі перайшлі ў генэральны камісарыят у Менску. Такім чынам, пад кіраўніцтвам Готбэрга на Беларусі ўтварыўся суцэльны гаспадарчы абшар. У лютым 1944 г. яго тэрыторыя павялічылася за кошт ужо прыгаданых былых трох паветаў RKU. Пры гэтым падкрэсьлівалася асаблівая неабходнасьць падначаліць аднаму кіраўніцтву сельскую гаспадарку. У сьнежні 1943 г. у сыстэме генэральнага камісарыяту ў Менску паўстаў новы галоўны аддзел харчаваньня і сельскай гаспадаркі. Яго дзейнасьць пашыралася на тэрыторыі цывільнай і вайсковаай адміністрацыі. Усё гэта рабілася дзеля таго, каб узмацніць эксплюатацыю беларускай сельскай

[14] Мачульский Р. Вечный огонь. Минск, 1965. С. 325.

[15] Паведамленьне Калубовіча, зробленае для аўтара 14.3.1979; унутраная запіска ОМі (ад Лябса — Альвёрдэну) ад 1.11.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, г. 23/479.

[16] Miesięczny przegląd sprawozdawczo–sytuacyjny z 30.11.1943, ЦА ЦК ПАРП, 202/II–8, k. 82.

[17] Справаздача прадстаўніка ўраду ў Віленскай акрузе за кастрычнік 1943 г. Тамсама, 202/11–49, к. 310.

гаспадаркі, значэньне якой узрасло пасьля страты немцамі Ўкраіны.

Гаспадарчая палітыка Кубэ адыйшла ў нябыт. Пад канец акупацыі людзі балюча адчулі на сабе гэтыя перамены. Акупацыйныя ўлады раз за разам павялічвалі нормы паставаў мяса і жорстка дамагаліся іх выкананьня. Жывёлагадоўля прыйшла ў глыбокі заняпад. Паводле зьвестак слонімскага акруговага камісара, у выніку інтэнсіўнага нарошчваньня харчовых паставаў для Нямеччыны і партызан пагалоўе жывёлы ў гэтай акрузе ў 1944 г. зьменшылася на 50% у параўнаньні з 1942 г., ад ранейшага пагалоўя сьвіньняў і авечак засталося ўсяго 10%, а птаства было вынішчана амаль цалкам. У адной вёсцы на 80 гаспадарак прыходзілася 10 коней, а ў шасьці вёсках налічылі толькі 11 сьвіньняў[18]. Напэўна, гэта адзін з найзырчэйшых прыкладаў, які праўдзіва адлюстроўваў становішча беларускай жывёлагадоўлі таго пэрыяду.

Аднак найважнейшым клопатам Готбэрга па–ранейшаму заставалася барацьба з савецкімі партызанамі. Іх дзейнасьць пагражала ня толькі выкананьню гаспадарчых задач — цяпер, з набліжэньнем фронту, навісла небясьпека дэзарганізацыі беспасярэдніх тылоў дзейнай арміі. Папярэднія супрацьпартызанскія акцыі не далі жаданых вынікаў, апрача таго, выклікалі пратэсты Кубэ, якія ўсё ж такі падзейнічалі пэўным чынам: пасьля атрыманьня апошняга рапарту ў кастрычніку 1943 г. Бройтыгам прапанаваў Бэргеру заняцца расьсьледаваньнем карных мэтадаў СС на Беларусі[19]. Праўда, Бэргер адкінуў гэтую прапанову, тым ня менш мусіў прызнаць, што адзін з самых лютых атрадаў СС пад камандаваньнем Дырлевангера дзейнічаў “абсалютна безадказна”[20]. Такія выказваньні ў найвышэйшых эсэсаўскіх колах прымусілі Готбэрга перагледзець свае мэтады барацьбы з партызанамі. Да таго ж разам зь сьмерцю Кубэ зьнікла галоўная крыніца канфліктаў сярод нямецкага кіраўніцтва на Беларусі.

Свае новыя погляды Готбэрг прывёў падчас канфэрэнцыі, якая адбылася ў ОМі ў канцы лістапада 1944 г. Па–першае, ён прызнаў, што ранейшыя бесчалавечныя сродкі абыходжаньня з насельніцтвам былі памылкаю, бо “парушаюць яго пачуцьцё справядлівасьці”[21], а па–другое, карныя экспэдыцыі ня могуць прынесьці чаканых вынікаў. Неўзабаве ў вайсковыя часьці была разаслана спэцыяльная інструкцыя, дзе падрабязна расьпісваліся паводзіны ў часе карных экспэдыцыяў. Забаранялася “залішне жорсткае” абыходжаньне з цывільнымі жыхарамі; нельга было адлучаць матак ад дзяцей, палонных, якіх раней папросту расстрэльвалі, цяпер было загадана трымаць у пераваплачных лягерох і трактаваць належным чынам. Хворыя, старыя, а таксама маткі зь дзецьмі да 10 гадоў павінны былі перасяляцца ў больш спакойныя мясьціны, прычым ім дазвалялася перавезьці з сабою ўсю сваю маёмасьць[22]. У пачатку сакавіка 1944 г. Розэнбэрг падпісаў дэкрэт, які даваў права памілаваньня ўдзельнікам партызанскага руху ў Беларусі[23].

Зьмякчэньне тэрору да насельніцтва было адным з элемэнтаў новай антыпартызанскай стратэгіі Готбэрга. Ён крытычна ацаніў вынікі ранейшых карных апэрацыяў і цяпер імкнуўся дамагчыся прыхільнасьці насельніцтва, каб уцягнуць яго ў барацьбу супраць партызан. Гэта быў паварот да ранейшай канцэпцыі Кубэ. Аднак сытуацыя ў кан-

---

[18] Справаздача камісара Слонімскай акругі ад 10.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/334.

[19] Нататка Бройтыгама да Бэргера ад 25.10.1943 г. і іншыя лісты па гэтым пытаньні, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 23/502—506.

[20] Ліст Бэргера да Гімлера ад 19.10.1943 // Trials of Criminals... Vol. XIII. 1952. P. 530—531.

[21] Справаздача Лябса аб перамовах, якія вяліся з Готбэргам 22—23.11.1943 г., у ОМі ад 6.12.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 23/484.

[22] Müller, S. 171; Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg 1941 bis 1944 im Spiegel deutscher Kampfanweisungen und Befehle. Göttingen—Zürich—Frankfurt, 1969. S. 244.

[23] Дэкрэт Розэнбэрга ад 2.3.1944 // Amtsblatt des RMfdbO. 4.3.1944, № 3.

цы 1943 г. аказалася ўжо зусім іншая: цяжка было спадзявацца на сапраўдную шырокую падтрымку беларусаў у антыпартызанскай кампаніі. Не апраўдаліся і надзеі на стварэньне беларускіх паліцыйных батальёнаў замест некалі распушчанай самааховы. Нягледзячы на доўгія стараньні, да верасьня 1943 г. арганізавана ўсяго два такія атрады[24]. Паралельна зь імі дзейнічалі толькі паліцыя парадку і чыгуначная ахова. Гэтых сілаў было недастаткова, таму летам 1943 г. для барацьбы з партызанамі апрача нямецкіх войскаў прыбыло некалькі нацыянальных паліцыйных батальёнаў, сярод іх літоўскія, латыскія, украінскія, расейскія і нават адзін польскі[25]. Але і гэтых сілаў усё ж такі не хапала.

Таму, нягледзячы на недавер і кадравы дэфіцыт, ўвосень 1943 г. была зроблена нясьмелая спроба пашырэньня беларускіх паліцыйных батальёнаў, нягледзячы на пэўны недавер і недахоп кадраў. У верасьні–кастрычніку была абвешчана лякальная мабілізацыя ў Баранавіцкай і Слонімскай акругах[26]. Вынікі яе былі нечаканыя: на заклік вайсковых аддзелаў адгукнулася столькі прызыўнікоў, што гэтай колькасьці хапіла зь верхам, каб сфармаваць два заплянаваныя батальёны, — частку людзей давялося нават перапраўляць у Слуцак, дзе павінен быў арганізавацца яшчэ адзін батальён[27]. Неўзабаве быў сфармаваны даволі вялікі добраахвотны батальён у Наваградку, яго ядром сталі вучні мясцовай настаўніцкай сэмінарыі[28]. Меркавалася стварыць добраахвотныя батальёны ў Глыбокім і Лідзе, аднак тут не набралася нават роты добраахвотнікаў.

Такім чынам, пад кіраўніцтвам HSSPF RM und WR на пачатку 1944 г. тэарэтычна было створана 7 батальёнаў, у якіх разам налічвалася 2167 чалавек. Тры з гэтых сямі батальёнаў (№ 64, 66 і 67) яшчэ знаходзіліся ў стадыі фармаваньня. Паводле зьвестак Кушаля, сюды яшчэ трэба было дадаць батальён № 13, што падпарадкоўваўся паліцыі бясьпекі (каля 1000 чалавек), батальён чыгуначнай аховы (каля 1000 чалавек), а таксама паліцыю парадку (каля 20 000 чалавек)[29].

Агульная колькасьць гэтых фармаваньняў на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі складала разам больш за 24 тысячы чалавек. Відаць, ува Ўсходняй Беларусі колькасны

[24] Для Готбэрга працэс фармаваньня гэтых батальёнаў быў павучальны. Стварэньне першага батальёну № 49 Шымана распачаў яшчэ ў жніўні 1942 г. на Меншчыне. Нямецкія камандзіры набіралі туды людзей пад прымусам і абыходзіліся зь імі жорстка, нават білі. Пры гэтым навабранцаў апранулі ў непапулярныя паліцыйныя мундзіры. Падчас падрыхтоўкі часта здараліся выпадкі дэзэртэрства, так што толькі ў красавіку 1943 г. нарэшце завяршылася фармаваньне гэтага батальёну, а ў траўні яго ў складзе 300 чалавек перадалі ў распараджэньне Готбэрга. Батальён, у прынцыпе, займаўся вартаўніцтвам, радзей яго выкарыстоўвалі для барацьбы з партызанамі. Другое фармаваньне — беларускі спэцыяльны батальён № 13, арганізаваны на пачатку 1943 г. паліцыяй бясьпекі ў Менску з прапагандысцка–вэрбоўчай дапамогай беларускіх дзяячоў. Ён атрымаў лепшае забесьпячэньне, шэра–зялёную ўніформу *Waffen–SS* зь бел–чырвона–белай павязкай на рукаве і ў значнай ступені знаходзіўся пад камандаваньнем беларусаў. І гэта прынесла посьпех: летам 1943 г. батальён удзельнічаў у антыпартызанскіх акцыях, аднак дэзэртэрства ў яго шэрагах не было. Восеньню 1943 г. батальён быў пераведзены ў Вялейку ў складзе трох рот, дзе налічвалася каля 1000 чалавек // Кушаль Ф. Спробы арганізацыі беларускага войска пры нямецкай акупацыі Беларусі. — Машынапіс, які захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане. С. 11, 38.

[25] Польскі паліцыйны батальён № 202 у сярэдзіне 1942 г. кватараваў у Барысаве. HSSPF RM und WR, Kräfteübersichten vom 1.5.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–175, 225/2764107; Madajczyk. T. II. S. 360.

[26] Раніца. 1943. 19 верасьня і 17 кастрычніка.

[27] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 14.

[28] Акула К. Змагарныя дарогі. Таронта—Мюнхэн, 1962. С. 28.

[29] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 15. Ацэнку Кушаля можна прызнаць за кампэтэнтную: у жніўні 1943 г. Готбэрг прызначыў яго на пасаду гаўптбэтраўэра (галоўнага апекуна) усёй беларускай паліцыі. Кушаль Ф... С. 46, 47.

**Табліца 12.** Разьвіцьцё беларускіх паліцыйных батальёнаў

| Нумар часьці | Месца дысьлякацыі | Колькасны асабовы склад | | |
|---|---|---|---|---|
| | | **20.12.1943** | **30.1.1944** | **29.2.1944** |
| 48 | Слонім | 592 | 615 | 590 |
| 49 | Менск | 327 | 322 | 314 |
| 60 | Сноў* | 562 | 562 | 526 |
| 64 | Глыбокае | – | – | 65 |
| 65 | Наваградак | – | – | 477 |
| 66 | Слуцак | – | – | 172 |
| 67 | Ліда | – | – | 23 |
| **Разам** | | **1481** | **1499** | **2167** |

* Мястэчка пад Нясьвіжам Баранавіцкай акругі, зь лютага 1944 г. батальён разьмяшчаўся ў Баранавічах.

*Крыніца:* HSSPF RM und WR, Kräfteübersichten vom 1.1.1944, 30.1.1944, 1.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–175, ролік 225/2764380–94.

склад паліцыі парадку быў ня меншы. Апрача таго, на ўсходзе Беластоцкай акругі ў 1943 г. распачалося стварэньне беларускіх паліцыйных атрадаў. З улікам усіх гэтых зьвестак атрымліваецца, што ў пачатку 1944 г. у шэрагах вайскова–паліцыйных атрадаў па ўсёй Беларусі знаходзілася ня менш як 50 тыс. чалавек, калі не лічыць яшчэ чужых нацыянальных часьцей.

Готбэрг, хоць і пачаў разбудову беларускіх паліцыйных батальёнаў, па–ранейшаму ня меў да іх вялікага даверу і таму імкнуўся трымаць іх пад самым пільным наглядам. Дзеля гэтага 2.12.1943 г. ён зьвярнуўся да паліцыйных уладаў у Бэрліне з просьбаю прысылаць на Беларусь па 8 нямецкіх афіцэраў, 2 адміністрацыйных чыноўнікаў, 58 падафіцэраў, 4 перакладчыкаў і 2 шофэраў на кожны батальён[30]. Усяго — па 74 чалавекі на кожны батальён. Менавіта тут крылася галоўная крыніца недаверу да часьцей былой самааховы, у якіх не было такога суворага кантролю нямецкага пэрсаналу. Кушаль у сваёй працы ня раз адзначаў, што нямецкія афіцэры імкнуліся выжыць з гэтых батальёнаў беларускіх афіцэраў і падафіцэраў і занізіць іх ролю, у выніку чаго і ўзьнікалі канфлікты. Несумненна, што галоўным тормазам фармаваньня беларускіх узброеных сілаў быў недавер нямецкага камандаваньня, а не праблема зь беларускімі кадрамі.

З аднаго боку, у немцаў былі падставы для недаверу: у кепска ўзброеных, слаба падрыхтаваных атрадах, якія ня мелі ў гэтай барацьбе палітычнай мэты, панавала дэзэртэрства, аднак, з другога боку, улады нічога не рабілі дзеля таго, каб гэты недавер разьвеяць. Таму тут па–ранейшаму панавала ўзаемнае напружаньне. Нават вынікі лякальнай мабілізацыі ў Баранавічах і Слоніме, якія сьведчылі пра жаданьне беларусаў удзельнічаць у заведама безнадзейнай барацьбе на баку Нямеччыны, не маглі пераканаць немцаў. Справа ў тым, што гэтая мабілізацыя вялася пад зманлівымі лёзунгамі патрыятызму і арганізацыі беларускага войска — менавіта яны і прадвызначылі посьпех усёй справы[31]. І сапраўды, цяжка падабраць нейкае іншае тлумачэньне такому наплыву добраахвотнікаў: прызыўнікам, папраўдзе, пагражалі нямецкія рэпрэсіі ў тым выпадку, калі б яны не зьявіліся па закліку ўладаў, але, з другога боку, іх чакала партызанская расправа, так што ўсякі выбар быў небясьпечны.

Другім кірункам дзейнасьці, які не патрабаваў ад Готбэрга палітычных рашэньняў, а быў пакліканы палепшыць стан бясьпекі і рэалізацыю гаспадарчых задачаў, была арганізацыя абаронных вёсак, задуманых як лякальныя антыпартызанскія базы. 19.10.1943 г. Готбэрг выдаў новае распараджэньне: паліцыйныя ўлады генэральнай акругі Беларусі і іх акруговыя камісары павінны былі распачаць арганізацыю абаронных вёсак — пась-

[30] Нататка шэфа паліцыі парадку ад 1.2.1944, AGKBZH, M 445, Т–175, r. 7/2510290.
[31] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 13—14; Раніца. 1943. 19 верасьня.

ля ачышчэньня абраных населеных пунктаў ад ненадзейных элемэнтаў было загадана раздаць засталым жыхарам па 50—100 вінтовак[32]. Гэта быў яшчэ адзін зварот да колішняй канцэпцыі Кубэ. 22 лістапада на канфэрэнцыі ў ОМі Готбэрг паведамляў, што ў абаронных вёсках распачалася новая асадніцкая кампанія: туды адмыслова сталі перасяляць ахоўнікаў–паліцыянтаў, некаторыя зь іх ужо атрымалі зямельныя надзелы. Готбэрг запэўніў, што арганізацыя такіх гарнізонаў “спраўджвае сябе надзвычайна” і становіцца важным фактарам грамадзкай бясьпекі на Беларусі[33]. На пачатку 1944 г. гэтая апэрацыя распачалася і ўва ўсходнебеларускіх раёнах. Па зьвестках Гэсэ, у працэсе стварэньня абаронных вёсак ня раз паўставалі перашкоды. Па–першае, шмат у якіх вызначаных усходнебеларускіх паселішчах не хапала мужчын: іх альбо вывезьлі на працу ў Нямеччыну, альбо нанялі на будоўлю вайсковых аб’ектаў Вэрмахту. А па–другое, насельніцтва папросту страціла давер да акупантаў — у некаторых вёсках людзі кідаліся ўцякаць, убачыўшы нямецкіх салдат, пасланых для арганізацыі абароннай вёскі[34]. Таму вынікі гэтай кампаніі аказаліся досыць сьціплыя.

На тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі гэтая кампанія праходзіла больш пасьпяхова. У Баранавіцкай акрузе было арганізавана 14 абаронных вёсак[35], паўсталі яны і ў Глыбоцкай, Слонімскай, Наваградзкай, Слуцкай і іншых акругах, прычым нярэдка ў такіх паселішчах асядалі прыбыльцы, якіх гнаў з усходу наступ Чырвонай Арміі. Сярод іх аказваліся ўцекачы зь Віцебшчыны, казакі, каўказцы і салдаты з брыгады Камінскага, якія разам зь сем’ямі эвакуаваліся з Браншчыны. 5 такіх вёсак было створана і на ўсходзе Беластоцкай акругі. Такім чынам, на Беларусі паўстала ня менш як некалькі дзясяткаў супрацьпартызанскіх вясковых пунктаў супраціву. Тым ня менш даць адназначную ацэнку іх дзейнасьці даволі цяжка. Пасьля адступленьня глыбоцкі акруговы камісар пісаў у сваёй справаздачы, што ў яго акрузе абаронныя вёскі “ня выканалі сваёй задачы”, дзьве зь іх партызанам удалося цалкам абяззброіць[36]. Затое баранавіцкі акруговы камісар ацаніў іх дзейнасьць дадатна[37]. Як бы там ні было, ува ўсёй гэтай справе можна заўважыць яшчэ адзін вельмі істотны аспэкт: упершыню нямецкія ўлады рашыліся на перадачу значнай колькасьці зброі ў рукі насельніцтва.

У канцы 1943 г. акупацыйныя ўлады вырашылі актывізаваць польскія сілы для барацьбы з савецкім партызанскім рухам і прыцягнуць да супрацоўніцтва атрады АК. Дзеля гэтага яны адмовіліся ад ранейшага антыпольскага курсу, які быў абраны імі ў сярэдзіне 1942 г. Немцы разьлічвалі на тое, што слаба ўзброеныя акоўскія атрады, якія варагавалі з савецкімі партызанамі і нават мелі зь імі крывавыя сутычкі, цяпер не адмовяцца ад прапановы паправіць стан свайго ўзбраеньня.

І сапраўды, некаторыя атрады АК пагадзіліся з такою прапановаю. 9.12.1943 г. камандзір стаўпецкай групоўкі АК капітан Адольф Пільх (псэўданім “Гура”) заключыў зь немцамі дамову і да канца акупацыі атрымліваў ад іх зброю і амуніцыю, якія высылаліся зь Менску[38]. Крыху пазьней (пасьля 24.12.1943 г.) такое пагадненьне заключыў у Лідзе камандзір прынёманскай групоўкі, паручнік Юзаф Сьвіда (псэўданім “Лех”), які на працягу студзеня, лютага і сакавіка 1944 г. атрымаў пяць транспартаў зброі[39]. Абодва каманд-

[32] Загад HSSPF RM und WR ад 19.10.1943, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 88/441.

[33] Справаздача Лябса аб перамовах з Готбэргам 22—23.11.1943...

[34] Hesse. S. 234.

[35] Справаздача камісара Баранавіцкай акругі ад 11.8.1944, AAN, mf. T–454, r. 102/110.

[36] Справаздача камісара Глыбоцкай акругі ад 16.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/287.

[37] Справаздача камісара Баранавіцкай акругі ад 11.8.1944...

[38] Pilch A. Powstanie i dzieje polskiego oddziału partyzanskiego w obwodzie słupieckim // Spotkania. Paryż, 1984. № 21—22. S. 78.

[39] Świda J. Wyjaśnienia dotyczące okresu 1943/1944 roku // Zeszyty Historyczne. 1985. № 73. S. 76—78.

зіры сьцьвярджалі, што камандаваньне АК Наваградзкае акругі ўхваліла гэтыя пагадненьні, прычым Сьвіда і акруговы камандзір палкоўнік Януш Праўдзіц–Шляскі дамовіліся аб тым, што нямецкія паставы зброі і амуніцыі пяройдуць у поўнае распараджэньне камандзіра акругі[40]. Галоўнае камандаваньне АК у Варшаве і лёнданскі галоўнакамандуючы асудзілі гэтыя ўгоды. 17.1.1944 г. зь Лёндану прыйшоў загад разарваць супрацоўніцтва зь немцамі і разабрацца з тымі, хто прыняў у ім удзел. Сьвіда быў высланы з Наваградчыны, а Пільх насуперак загаду не спыніў супрацоўніцтва.

Пасьля першых посьпехаў з наваградзкімі атрадамі Готбэрг вырашыў пашырыць кантакты і зьвязацца зь віленскім акруговым камандаваньнем АК. 19.1.1944 г. прадстаўнік менскай дэлегатуры СД у Вялейцы Зайдлер сустрэўся зь віленскім акруговым камандзірам АК палкоўнікам Аляксандрам Кжыжаноўскім і прапанаваў яму наладзіць нямецка–польскае супрацоўніцтва ў барацьбе з савецкімі партызанамі, паабяцаўшы пры гэтым забясьпечыць групоўкі, падначаленыя віленскай камэндатуры, зброяй і амуніцыяй. Паводле кароткага рапарту, адзінае, чаго ўдалося дабіцца Зайдлеру, — гэта згоды на яшчэ адно спатканьне, на гэты раз перамовы з Кжыжаноўскім павінен быў весьці сам шэф вялейскай дэлегатуры СД Гравэ. Але неўзабаве такую самую прапанову Кжыжаноўскі атрымаў ад літоўскага камандаваньня Вэрмахту, пасьля чаго вырашыў перапыніць кантакты з СД на Беларусі і распачаў перамовы ў Літве з шэфам віленскага Абвэру Юліюсам Хрысьціянсанам[41].

Тым ня менш ініцыятыва Готбэрга не прапала марна. 1 сакавіка падчас выступленьня на канфэрэнцыі ў ОМі ён паведаміў, што “чатыры тыдні таму (г.зн. — недзе на сутыку студзеня і лютага. — *Ю.Т.*) на наш бок перайшлі тры буйныя польскія атрады (Banden) і спачатку таксама добра ваявалі”[42]. Готбэрг не падаў дакладных зьвестак пра гэтыя фармаваньні, аднак, хутчэй за ўсё, гэта былі віленскія атрады, бо апрача Наваградзкай акругі, зь якой немцы заключылі пагадненьні ў сьнежні, толькі Віленская акруга АК часткова знаходзілася на тэрыторыі генэральнай акругі Беларусі. Адначасова Готбэрг скардзіўся, што ініцыятыва нямецкіх службаў у Вільні перашкодзіла далейшым перамовам з Кжыжаноўскім, і таму неўзабаве надзейнасьць гэтых атрадаў пачала хутка слабець[43]. Аднак новы курс акупацыйных уладаў на Беларусі што да польскага падпольля ад гэтага не зьмяніўся. Пра гэта сьведчыць загад Готбэрга ад 23.2.1944 г. наконт мабілізацыі ў Беларускую краёвую абарону: з гэтага загаду былі выключаны ўся Лідзкая акруга, а таксама пэўныя раёны Вялейскай і Глыбоцкай, дзе гаспадарыла АК[44].

Нямецкія ініцыятывы зыходзілі, такім чынам, з двух цэнтраў — Менску і Вільні, але крыніца ў іх была адна — агульнае распараджэньне цэнтральных бэрлінскіх уладаў. 10 лютага Хрысьціянсан паведаміў на перамовах з Кжыжаноўскім, што пагадненьне, якое яны зьбіраюцца заключыць, было складзена зь ведама і даручэньня вышэйшага нямецкага камандаваньня. Паводле акоўскіх дакумэнтаў, гэты праект гучаў так:

1. Гэта вайсковая, а не палітычная дамова, яна скіравана на тое, каб ачысьціць край ад савецкіх бандаў.

2. Ніякіх зьменаў у кіраваньні краем і адміністрацыйнай палітыцы не прадугледжваецца. Польскі бок абавязуецца не кранаць нямецкай арміі, нямецкай і літоўскай адміністрацыі. Харчовыя паставы для войска павінны ладзіцца безь перашкод.

---

40 Pilch. Ibidem. Świda. Ibidem.

41 Паведамленьне з акругі АК “Гжыбы” ад 12.2.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/11–49, k. 10.

42 Пратакол перамоў з Готбэргам у ОМі ад 1.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 31/003.

43 Тамсама.

44 Загад Готбэрга наконт стварэньня БКА ад 23.2.1944, AGKBZH, александрыйскія мікрафільмы, T–175, r. 7/2508453.

3. У кожнай акрузе выступаць у якасьці прадстаўніка партызанскіх атрадаў павінна толькі адна паўнамоцная асоба. Паміж польскім і нямецкім камандаваньнем прызначаецца сувязны.

4. Польскія атрады атрымліваюць поўны боекамплект, аж да лёгкай артылерыі ўлучна.

5. Польскія атрады атрымліваюць права на збор харчовых паставаў на вызначаных землях.

6. Некаторыя віды зброі могуць выдавацца толькі на пэрыяд баявых дзеяньняў з умоваю, што яны будуць абавязкова вернутыя пасьля іх заканчэньня.

7. Прадугледжваецца польска–нямецкае баявое супрацоўніцтва[45].

Аднак гэтае пагадненьне не было падпісана — Кжыжаноўскі спаслаўся на тое, што паміж Польшчаю і Нямеччынай працягваецца вайна, і адкінуў праект дамовы. Хрысьціянсан паставіўся да гэтага з разуменьнем, ён прапанаваў варыянт, які дазволіў бы АК, не мяняючы прынцыповай пазыцыі, атрымліваць ад немцаў зброю і амуніцыю і іншае вайсковае забесьпячэньне. Ежы Дабжанскі, які прысутнічаў пры гэтай размове, сьведчыць, што гаворка ішла пра стварэньне сыстэмы вайсковых складоў з слабой аховай. З маўклівай згоды Вэрмахту акоўскія атрады маглі б нападаць на іх і такім чынам здабываць сабе ўсю неабходную экіпіроўку[46]. Гэтая аднабаковая пазыцыя немцаў вырашыла справу — немагчыма было адмовіцца ад зброі, якая ледзь не сама падала ў рукі.

Такім чынам, фармальная дамова была заменена камуфляжам, прычым настолькі ўдалым, што пасьля вайны вяліся доўгія спрэчкі вакол становішча акоўскіх атрадаў у апошняй фазе акупацыі. І сапраўды, вясною 1944 г. не атакаваныя немцамі атрады АК зрабілі шэраг нападаў на іх склады і гарнізоны, аднак цяжка вызначыць, у якой меры гэта былі аўтэнтычныя дзеяньні і ў якой — інсьпіраваныя Абвэрам. Апошнюю вэрсію пацьвярджае той факт, што немцы рознымі іншымі спосабамі падкідвалі зброю ў раёны разьмяшчэньня акоўскіх атрадаў. Кампэтэнтныя дзеячы АК сьведчаць, што гэткім шляхам немцы паляпшалі ўзбраеньне наваградзкіх атрадаў, а таксама брыгад паручніка Грацыяна Фруга (псэўданім “Шчэрбец”) і паручніка Зыгмунта Шандзяляжа (“Лупашкі”) у Віленскай акрузе[47].

На Віленшчыне і Наваградчыне нямецкая патаемная дапамога АК сталася сакрэтам палішынэля, аднак нельга было галасна разважаць пра яе. Віленскі публіцыст Юзаф Мацкевіч быў бадай што першым польскім аўтарам, які не пабаяўся гневу апалягетаў “палітычнай праўды” і загаварыў пра гэта публічна. Ён пісаў:

> А пакуль што існуе дамова. Немцы паціху даюць нам зброю — лічыцца, што мы яе здабываем, — і не кранаюць. А ўзамен хочуць, каб мы разагналі савецкіх партызан. Як спаткаецца наш атрад з жандарамі на дарозе, дык адны глядзяць у адзін бок, а другія — у іншы, так і разыходзяцца, як дзьве лялі. Апошнім часам лідзкі гебітскамісар, уласна кажучы, перадаў увесь свой “гебіт” у нашыя рукі, каб мы яму ўзамен ачысьцілі павет ад бальшавікоў. І мы “ачышчаем”, калі ўдаецца... Хаця... справа ўжо да таго дайшла, што наш камандзір пры поўным парадзе: на канфэдэратцы — тры зоркі, “маўзэр” пры пасе, “жолнеж польскі” ў пілётцы — на козлах сярод белага дня заяжджае ў нямецкую гарадзкую камэндатуру. Выходзіць нямецкі камандзір, салютуе пад казырок. Ідуць на нараду. Выходзяць — зноў пад казырок, наш сядае і ад’яжджае ў лес. Во што робіцца[48].

---

[45] Паведамленьне з акругі АК “Гжыбы” ад 12.2.1944...

[46] Siemaszko Z.S. Rozmowy z Wehrmachtem w Wilnie. Luty 1944 // Zeszyty Historyczne. 1984. № 69. S. 105, 108.

[47] Ibidem. S. 120—121; Erdman J. Droga do Ostrej Bramy. Londyn, 1984. S. 245.

[48] Mackiewicz J. Nie trzeba głośno mówić. Paryż, 1969. S. 327.

Новы курс нямецкай палітыкі да палякаў і асабліва падкармліваньне зброяй спрыялі ўзмацненьню пазыцыі АК у некаторых раёнах Заходняй Беларусі. А ў Лідзкай акрузе склалася ўвогуле ўнікальная сытуацыя: на пачатку 1944 г. нямецкая акупацыйная адміністрацыя тут папросту пакінула свае воласьці і толькі ў гарадох і на дарогах яшчэ падтрымлівала свой кантроль. Трапныя назіраньні Мацкевіча пацьвярджае акоўская справаздача з Наваградзкага ваяводзтва, у якой апісваецца сытуацыя, што панавала ў лютым—сакавіку 1944 г. Варта прывесьці зь яе шырокую цытату:

> Пад канец 1943 — на пачатку 1944 г. абставіны склаліся такім чынам, што шэраг паветаў Наваградчыны апынуўся, уласна кажучы, цалкам у польскіх руках. Немцы, заўважыўшы антыбальшавіцкую актыўнасьць войска польскага, выкарысталі яе дзеля ўласнай бясьпекі. Яны не чапаюць польскіх атрадаў і нават у многіх выпадках аказваюць ім дапамогу. Натуральна, гэта прыводзіць у замяшаньне палітычныя погляды польскага грамадзтва і ў сэнсе прапагандысцкім і палітычным можа прынесьці вялікую шкоду... Шчучынскі павет уваходзіць у склад Лідзкага гебітскамісарыяту... Гэта астравок Польшчы, на якім мясцовыя нямецкія ўлады выказваюць максымум цярпімасьці і разуменьня да арганізаванага і ўзброенага польскага грамадзтва. Шчучынскі павет нагадвае раёны Жлобіна і Бабруйску часоў Доўбара–Мусьніцкага[49]. Нямецкая ўлада існуе толькі ў мястэчках, а чырвоных — па той бок Нёмна.
> Польскія атрады праводзяць рэгулярную мабілізацыю — старасты афіцыйна разносяць імянныя прызыўныя позвы... Кожнае нядзелі, на кожнае сьвята ў вёсках спраўляюць палявую імшу з казаньнем... Млыны, дзяржаўныя маёнткі і вёскі плацяць даніну натурай і грашыма. Варшавяне з УКБ (Ударны кадравы батальён Баляслава Пясэцкага. — *Ю.Т.*) кажуць, што ўва ўсёй Польшчы няма такіх спрыяльных умоў для стварэньня падпольнай арміі, як у Шчучынскім павеце. Натуральна, што справа тут ня толькі ў настроях насельніцтва, але і ў нямецкай паблажлівасьці. Немцы вызвалілі з шчучынскага астрогу дзевяць хлопцаў, гаворачы, што вяртаюць ім свабоду пры ўмове, што яны пойдуць да “белых”[50].

Пры такой сытуацыі ў першай палове 1944 г. акоўскія шэрагі пачалі хутка разрастацца. Справа пайшла з асаблівым размахам пасьля таго, як на вызначаных Готбэргам землях была праведзена веснавая мабілізацыя мужчын у АК. Аб гэтым вымоўна сьведчыць статыстыка: колькасны асабовы склад акоўскіх атрадаў у Наваградзкай акрузе ў чэрвені 1944 г. дасягнуў 7,7 тыс. чалавек, прычым 40% зь іх складалі праваслаўныя беларусы[51]. Цікава, што з гэтай агульнай колькасьці на невялікую Лідзкую акругу прыйшлося 6,5 тыс. чалавек, г.зн. амаль 85% ад агульнай лічбы жаўнераў ува ўсёй Наваградзкай акрузе АК[52]. Затое ў іншых раёнах, дзе Готбэрг не даваў спэцыяльнага дазволу, вынікі мабілізацыі ў АК былі досыць сьціплыя.

Напярэдадні адыходу немцаў сілы АК нямала зрабілі для таго, каб расправіцца з патэнцыйнымі праціўнікамі аднаўленьня польскай улады ў Заходняй Беларусі. Як падаваў Пільх, пачынаючы зь сьнежня 1943 г. да канца чэрвеня 1944 г. чальцы яго атраду забілі каля 6 тысяч “бальшавікоў”[53]. Думаецца, што пераважная частка забітых — гэта мірныя беларускія жыхары, якіх западозрылі ў сувязях з савецкімі партызанамі. Вынішчэньне

[49] У студзені—лютым 1918 г. польскі корпус расейскай арміі пад камандаваньнем ген. Юзафа Доўбара–Мусьніцкага дысьлякаваны ў раёне Рагачоў—Жлобін—Бабруйск, пры матэрыяльнай падтрымцы Антанты ўчыніў антысавецкі мяцеж і захапіў шэраг гарадоў і мястэчак. — *А.С.*

[50] Справаздача аб становішчы ў Наваградзкім ваяводзтве за пэрыяд з 1.2.1944 да 1.4.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/11–73, k. 47—48.

[51] Prawdzic–Szlaski J. Nowogródczyzna w walce 1940—1945. Londyn, 1976. S. 140, 192.

[52] Справаздача камісара Лідзкай акругі ад 15.8.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/162.

[53] Pilch. S. 80.

беларусаў павялічылася і ў Лідзкай акрузе. Паводле беларускіх крыніц, зь сярэдзіны лютага да паловы красавіка 1944 г. ад рук акоўцаў там загінула некалькі тысяч чалавек[54].

Нямецкая адміністрацыя да канца акупацыі не спыняла заляцаньняў з акоўцамі ў Беларусі і ў Літве, нягледзячы на тактычнае ўзмацненьне антынямецкіх дывэрсійных акцыяў АК. У адрозьненьне ад нападаў савецкіх партызан, гэтыя акцыі нават не знайшлі адлюстраваньня ў тагачасных нямецкіх дакумэнтах. Акупацыйныя ўлады настолькі перакаваліся ў бяскрыўднасьці Арміі Краёвай, што нават вырашылі паспрабаваць яе сілы выкарыстаць пры абароне Вільні ад Чырвонай Арміі[55]. Разглядаўся нават праект стварэньня польскага прадстаўніцтва (Vertrauenstelle) у Літве[56], саступак у галіне школьнай асьветы, культуры і г.д.

Аднак да такога супрацоўніцтва не дайшло, бо пад канец акупацыі, у ліпені, АК паспрабавала выбіць нямецкія войскі зь Вільні. Гэтая апэрацыя стала свайго роду гістарычнай індульгенцыяй АК, яна павінна была засьведчыць, што ўсе стасункі зь немцамі былі проста тактычнымі сродкамі, якія служылі іншай, вышэйшай мэце — умацаваньню ўласных сілаў дзеля адбудовы польскай дзяржаўнасьці на ўсходніх землях.

Паводзіны Готбэрга ў справе разьвіцьця беларускіх паліцыйных атрадаў, стварэньня казацкіх батальёнаў, арганізацыі абаронных вёсак, нарэшце, ператварэньне часткі Слонімшчыны і Наваградчыны ў "самаўладную рэспубліку" расейскай брыгады Камінскага[57] сьведчаць аб тым, што ён найперш кіраваўся ўласнымі інтарэсамі ў барацьбе з савецкімі партызанамі, а не якімі–кольвек меркаваньнямі беларускай палітыкі. Таму меў рацыю супрацоўнік ОМі Кляйст, калі сьцьвярджаў, што Готбэрг быў праціўнікам ранейшага курсу Кубэ.

Такім чынам, можна меркаваць, што ўсе зьмены, якія неўзабаве пачаліся ў гэтым напрамку і завяршыліся стварэньнем Беларускай цэнтральнай рады (БЦР), былі вынікам ініцыятывы Астроўскага, а ня Готбэрга. Сьмерць Кубэ нарэшце дазволіла Астроўскаму вярнуцца на радзіму, дзе ён спадзяваўся адыграць важную палітычную ролю. Не пазьней за пачатак кастрычніка 1943 г. разам з штабам камандуючага цэнтральным участкам фронту Клюге Астроўскі перабраўся з Смаленску ў Баранавічы. Тым часам у Менску разьмясьцілася смаленскае СД. Астроўскі пастараўся ня страціць кантактаў, завязаных з вайсковымі і паліцыйнымі ўладамі ў Смаленску, і цяпер, маючы іх рэкамэндацыі і падтрымку новага шэфа Готбэрга, адчуваў сябе на кані[58].

Бессумнеўна, што менавіта Астроўскі (асабіста альбо праз пасярэдніцтва сваіх нямецкіх спонсараў) адразу ж узяўся за справу і пасьпяшаўся пераканаць Готбэрга ў мэтазгоднасьці стварэньня на Беларусі органа цэнтральнага самакіраваньня. Аднак ёсьць нямала доказаў таго, што Готбэрг не адразу даў сябе намовіць. Тры важкія акалічнасьці перашкаджалі ажыцьцяўленьню гэтага праекту: па–першае, бэрлінскія інструкцыі забаранялі стварэньне такога органа, па–другое, фармальна яшчэ існаваў Камітэт даверу, але зь ім Готбэрг супрацоўнічаць не хацеў, бо ня мог пагадзіцца з пазыцыяй Іваноўскага, нарэшце, па–трэцяе, ён ня верыў у магчымасьці беларускага нацыяналізму і не сьпяшаўся разыгрываць гэтую карту. З другога боку, Готбэрг разумеў, што такі орган адыграе пэўную прапагандысцкую ролю і стане карысным інструмэнтам у барацьбе з партызанамі.

Свае ідэі і асьцярогі ў галіне беларускай палітыкі Готбэрг упершыню прадставіў на канфэрэнцыі, якая адбывалася ў ОМі 22—23.11.1943 г. У ёй прымалі ўдзел вышэйшыя

---

[54] [Станкевіч Ян.] Палажэньне ў Лідзкай акрузе Генэральнага камісарыяту Беларусі // Летапіс. Нью–Ёрк, 1985. № 28. С. 91.

[55] Korab–Zebryk R. Operacja wileńska AK. Warszawa, 1985. S. 162—163.

[56] Ліст Мэера да Лёзэ ад 12.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 21/040.

[57] Гэтая акруга была створана ў лютым 1944 г. Яна не падлягала ўладзе акруговых камісарыятаў у Наваградку і Слоніме, а падпарадкоўвалася Камінскаму. Гл. распараджэньні Готбэрга ад 23.2.1944 і 30.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 17/321—323.

[58] Генэза і дзейнасьць Беларускай цэнтральнай рады. С. 485—500 гэтага выданьня. — *Рэд.*

кіраўнікі гэтага міністэрства на чале з пастаянным намесьнікам Розэнбэрга — Мэерам[59]. Готбэрг па–ранейшаму не выказваў да беларусаў даверу, абвінавачваў у супрацоўніцтве з савецкімі партызанамі, даводзіў, што яны ня ведаюць уласнай мовы, быў супраць адкрыцьця культурных установаў накшталт Менскага тэатру і лічыў, што культурная праца не павінна за межы самага прымітыўнага ўзроўню. Тым ня менш ён выказаўся за як мага хутчэйшае выданьне школьных падручнікаў, за далейшую працу арганізацыяў самапомачы і Саюзу беларускай моладзі, бо лічыў, што ў грамадзтве яны адыгрываюць дадатную прапагандысцкую ролю.

У той момант Готбэрг палічыў, што стварэньне органа, пра які так старанна клапаціўся Астроўскі, — справа другарадная. У агульных фразах, нават не падаўшы яго будучай назвы, не акрэсьліўшы кола яго паўнамоцтваў, Готбэрг паведаміў толькі, што такі орган мог бы выконваць некаторыя дарадчыя функцыі. У прыватнасьці, ён тады не праводзіў ніякай сувязі паміж праектам стварэньня БЦР і разьвіцьцём беларускіх узброеных сілаў, што між тым пазьнейшыя дасьледчыкі палічылі за галоўны матыў яе стварэньня. Калі ўжо казаць дакладна, дык на гэтай канфэрэнцыі Готбэрг вёў гаворку не пра стварэньне новага органа, а пра актывізацыю раней створанай Рады даверу, каб такім чынам пераканаць удзельнікаў канфэрэнцыі, што выданьня нейкіх дадатковых праўных актаў у гэтай справе не спатрэбіцца. Готбэрг спадзяваўся, што такім шляхам яму ўдасца абмінуць складаную фармальную працэдуру.

Вынікі канфэрэнцыі ўказваюць на тое, што Готбэрг усё ж такі зьбіраўся выкарыстаць праект Астроўскага, але надыйшоў канец лістапада, а справа ня рушылася зь месца. Усё ўпіралася ў праблему кіраўніцтва: стаць старшынём рэарганізаванай Рады даверу Астроўскі мог толькі пасьля таго, як гэтую пасаду пакіне Іваноўскі. Аднак Готбэрг, хаця і быў зацікаўлены ў тым, каб пазбыцца Іваноўскага, ня стаў яго звальняць ці патрабаваць, каб ён падаў у адстаўку, а пакінуў гэтую справу Астроўскаму і яго паслугачам.

Спачатку яны думалі, што ананімнымі лістамі ім удасца запалохаць Іваноўскага і прымусіць яго пакінуць Менск, але спроба не ўдалася[60]. І тады пачалася падрыхтоўка да замаху. 6 сьнежня, калі Іваноўскі ў адкрытай брычцы вяртаўся дадому з гарадзкой управы, на яго напалі двох мужчын, адзін зь якіх — Аляксандар Камінскі — раней служыў у менскай паліцыі і “ўцёк” у партызаны, — прагучала некалькі стрэлаў. Іваноўскі быў паранены, але не сьмяротна. Яго адразу ж перавезьлі ў гарадзкі шпіталь і кінулі бязь лекарскай дапамогі. Назаўтра, 7.12.1943 г., Вацлаў Іваноўскі памёр[61]. Готбэрг ужо 23 лістапада падчас раней згаданай канфэрэнцыі выразна наменьваў на тое, што на Іваноўскага рыхтуецца замах і выканаюць яго самі беларусы. Ён зьвязаў гэта зь неабходнасьцю актывізацыі Рады даверу[62]. Адказнасьць за сьмерць Іваноўскага кладзецца як на плечы Астроўскага, так і Готбэрга — першы быў ініцыятарам замаху, другі ведаў пра яго ад пачатку і дазволіў, каб ён адбыўся.

Зь сьмерцю Іваноўскага зьнікла апошняя перашкода на шляху Астроўскага да БЦР. Неўзабаве пасьля замаху, 12.12.1943 г., акруговы баранавіцкі камісар Рудольф Вэрнэр склікаў сход мясцовага актыву, на якім кандыдатуру Астроўскага вылучылі на пасаду прэзыдэнта БЦР[63]. Гэта і быў той самы “выраз народнага даверу”, на які пазьней спасылаліся Готбэрг і Астроўскі.

---

[59] Справаздача Лябса аб перамовах з Готбэргам 22—23.11.1943...

[60] Жыцьцё і дзейнасьць праф. Вацлава Іваноўскага. Дыскусія на пасяджэньні Сэнацкай камісіі гісторыі і традыцыі Варшаўскага політэхнічнага інстытуту (інфармацыя Анны Іваноўскай–Карнэцкай), Archiwum Pracowni II wojny światowej Instytutu Historii PAN, A 772/85.

[61] Кушаль Ф. У дваццатыя ўгодкі ганебнага чыну (Да забойства праф. Іваноўскага) // Беларус. 1964. Жнівень.

[62] Справаздача Лябса аб перамовах з Готбэргам 22—23.11.1943...

[63] Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. С. 118—119; Другі ўсебеларускі кангрэс. Мюнхэн, 1954. С. 93.

Праз тыдзень, 21.12.1943 г., у Менску адбыўся ўрачысты сход, на якім Готбэрг абвясьціў стварэньне Беларускай цэнтральнай рады і прызначыў Астроўскага яе прэзыдэнтам. Тут жа быў абвешчаны статут, у якім БЦР менавалася прадстаўніцтвам беларускага народу, а яе галоўнай мэтаю ставілася мабілізацыя ўсіх нацыянальных сілаў на барацьбу з бальшавізмам. Перадаваць акупацыйным уладам адпаведныя праекты стала правам і абавязкам БЦР. Адсюль вынікае, што Рада павінна была стаць галоўным чынам дарадчым органам, аднак у некаторых галінах (сацыяльная абарона, культура і школьніцтва) яна мела права на самастойную дзейнасьць і магла выдаваць распараджэньні ад уласнага імя[64].

Дарэчы, зачытаным Готбэргам статуце не было ніякіх спасылак на нейкія загады альбо іншыя рашэньні цэнтральных бэрлінскіх уладаў, якія маглі б лічыцца праўнай падставай дзейнасьці БЦР. І сапраўды, такой падставы не існавала: БЦР узьнікла ў выніку рэарганізацыі Рады (дакладней кажучы — Камітэту даверу), прычым Готбэрг выкарыстаў плён свайго папярэдніка — Кубэ. Аднак БЦР не была фармальным працягам Камітэту даверу, які быў толькі дарадчай адміністрацыйнай камісіяй генэральнага камісарыяту, а не асобным беларускім органам. Функцыі і паўнамоцтвы БЦР і Камітэту даверу былі розныя, таму такая рэарганізацыя стала толькі прыкрыцьцём для самавольных рашэньняў Готбэрга. Бэрлінскае начальства заплюшчвала вочы на гэтую праўную фікцыю, тым больш, што яе аўтарам быў чалавек СС, а ў Менску ніхто не спрабаваў спэцыяльна ў гэтым разабрацца.

У прамове з нагоды абвяшчэньня БЦР Готбэрг паабяцаў паляпшэньне жыцьцёвых умоў: павелічэньне заробкаў, забесьпячэньне харчовымі і прамысловымі таварамі, мэдыцынскімі паслугамі — і заклікаў насельніцтва да арганізацыі абаронных вёсак. Беларускі народ, якому яшчэ зусім нядаўна ў Бэрліне ён выказваў недавер, цяпер Готбэрг называў ня йначай як “фанатычным ворагам бальшавізму”. Нядаўні праціўнік разьвіцьця беларускай навукі і культуры, які лічыў дзейнасьць Менскага тэатру залішняй раскошай, цяпер абяцаў яму ўсебаковую падтрымку[65]. Готбэрг разьлічваў, што гэтыя тыпова прапагандысцкія дэкларацыі створаць уражаньне зьмены кірунку нямецкай палітыкі на Беларусі, а заадно адцягнуць увагу ад сапраўднай сутнасьці новага органа.

Апрача фармальных паўнамоцтваў, пералічаных ува ўступнай частцы, у статуце БЦР былі пункты, якія абмяжоўвалі яе дзейнасьць толькі тымі заданьнямі, якія выстаўлялі перад ёй акупацыйныя ўлады. Абмежаваньні датычылі нават такіх кірункаў дзейнасьці БЦР, дзе яна мела права на самастойныя рашэньні: культуры, школьніцтва і сацыяльнага забесьпячэньня апекі. Усе распачынаньні ў гэтых галінах павінны былі зацьвярджацца акупацыйнымі ўладамі. Прэзыдэнт БЦР прызначаўся і здымаўся з пасады паводле рашэньня генэральнага камісара, згодна з прапановамі прэзыдэнта ён прызначаў таксама і сяброў Рады[66]. Такім чынам, БЦР нават з фармальнага гледзішча не была самастойным органам. Варта адзначыць, што ані ў статуце, ані ў інаўгурацыйнай прамове Готбэрга нічога не гаварылася пра задачы БЦР у вайсковай галіне. У рэшце рэшт, 21 сьнежня стала днём абвяшчэньня БЦР, а не яе стварэньня, бо, апрача Астроўскага, ня быў яшчэ прызначаны ніводзін сябра Рады. Значыцца, Готбэрг па–ранейшаму дзейнічаў вельмі асьцярожна.

Астроўскага гэта, здаецца, не расчаравала. У адказ на прамову Готбэрга ён выказаў разуменьне, што ў часе вайны нельга разьлічваць на поўнае і канчатковае вырашэньне беларускага пытаньня, але заявіў, што не губляе надзеі на вырашэньне гэтай праблемы “згодна з інтарэсамі беларускай нацыі — саюзьніцы вялікай нямецкай нацыі”. Ён вы-

[64] Раніца. 1944. 9 студзеня.

[65] Тамсама.

[66] Тамсама.

казаў словы падзякі і вернасьці і заклікаў нацыю да супольнай зь Нямеччынай барацьбы "да канчатковае перамогі"[67]. Астроўскі ведаў межы сваёй кампэтэнцыі і разумеў асьцярогі Готбэрга, таму вырашыў абраць тактыку малых крокаў і адваёўваць саступкі спакваля.

Астроўскі вырашыў зрабіць стаўку на тое, што зараз было найбольш патрэбна Готбэргу і што ён сам трымаў цяпер у сваіх руках, — на прапаганду. Адразу ж пасьля абвяшчэньня БЦР з дапамогай мясцовых службаў БНС у правінцыі ён арганізаваў шматлікія маніфэстацыі падтрымкі БЦР пад лёзунгамі беларускай незалежнасьці і барацьбы з партызанскім рухам[68]. 10.1.1944 г. Астроўскі выступіў з адозвай да нацыі, якая распаўсюджвалася па ўсіх даступных каналах масавай інфармацыі[69]. Ён заклікаў партызан і жыхароў, што знаходзіліся пад іх аховай, адмовіцца ад супраціву і вярнуцца дадому[70]. Да гэтай акцыі была далучана і праваслаўная царква[71]. Такой інтэнсіўнай прапаганды на Беларусі ня бачылі ад пачатку акупацыі.

Сапраўднай прычынай гэтай прапагандысцкай кампаніі была псыхалягічная падрыхтоўка грамадзтва Беларусі да вайсковай мабілізацыі. Готбэрг, праўда, у студзені яшчэ не атрымаў дазволу на гэта з Бэрліна, але спадзяваўся, што неўзабаве ён паступіць. Пра тое сьведчылі прыгатаваньні да мабілізацыі ў Прыбалтыцы. Толькі ў гэты момант нарэшце была склікана БЦР. 22 студзеня адбылося т.зв. канстытуцыйнае пасяджэньне Рады, на якім быў публічна абвешчаны яе 14–асабовы склад на чале з прэзыдэнтам Астроўскім і двума яго намесьнікамі — Шкялёнкам і Сабалеўскім[72]. 24 студзеня было створана 12 аддзелаў БЦР, сярод іх — вайсковы, кіраўніком якога прызначылі Кушаля[73].

У лютым пасьля дазволу Гітлера на правядзеньне на Беларусі мабілізацыі ў БЦР адбыліся новыя перамены. 23 лютага Готбэрг "у адказ на прапанову прэзыдэнта БЦР ад 18.2.1944 г." выдаў загад аб стварэньні Беларускай краёвай абароны (далей — БКА) і даручыў БЦР правесьці на пэўных землях генэральнай акругі Беларусі вайсковую мабілізацыю[74]. БЦР адразу ж узялася за падрыхтоўку гэтай акцыі. 25 лютага ў Менску адбыўся вялікі мітынг, на якім так званы "беглы" капітан Чырвонай Арміі Ігар Капор "абнародаваў" таемны загад Сталіна аб поўным вынішчэньні беларускай нацыі, пасьля чаго была падрыхтавана рэзалюцыя аб гатоўнасьці гэтай нацыі да барацьбы з бальшавізмам[75]. У той самы дзень БЦР прызначыла сваіх акруговых камандзіраў у Менску, Баранавічах, Глыбокім, Наваградку, Слоніме, Слуцку і Вялейцы. Ім было загадана ўзначаліць працу прызыўных камісіяў у сваіх акругах[76].

Готбэрг разумеў, што, калі адзінай справаю БЦР будзе мабілізацыя, ніякай грамадзкай папулярнасьці ёй гэта не прынясе, і таму, згодна з раней абвешчанай праграмай, вырашыў пашырыць яе паўнамоцтвы і ў іншых галінах. Гэта б сьведчыла пра аўтарытэт Рады і яе самастойнасьць. Пра гэта Готбэрг гаварыў 1 сакавіка на чарговай канфэрэнцыі ў ОМі, прычым падкрэсьліваў, што акупацыйныя ўлады, калі б яны перадаручылі БЦР некаторыя галіны адміністрацыі, па–ранейшаму маглі б трымаць іх пад сваім кантролем

[67] Тамсама.

[68] Тамсама. 23.1.—20.2.1944. Гэтыя мітынгі адбываліся паводле загадзя вызначанага сцэнару, пра што сьведчаць цалкам аднолькавыя рэзалюцыі, якія прымаліся іх удзельнікамі.

[69] Раніца. 1944. 30 студзеня.

[70] Справаздача Готбэрга ад 18.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, г. 26/211.

[71] Пастарскае пасланьне мітрапаліта Менскага і ўсяе Беларусі // Раніца. 1944. 23 студзеня.

[72] Раніца. 1944. 6 лютага.

[73] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан, 1960. С. 85.

[74] Загад Готбэрга аб утварэньні БКА ад 23.2.1944, AGKBZH, александрыйскія мікрафільмы Т–175 г. 7/2508453.

[75] Раніца. 1944. 19 сакавіка; Ostland. Riga. April, 1944. № 10.

[76] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 86, 88.

і агульным кіраўніцтвам[77]. Аднак з чыста фармальнага боку вырашыць такое пытаньне было вельмі цяжка, паколькі ОМі не магло кіраваць дзейнасьцю БЦР — яно не дало санкцыяў на яго стварэньне. Пры гэтым "паўнамоцтвы" БЦР у вайсковай галіне ня мелі істотнага значэньня — падобная мабілізацыя праводзілася таксама і на іншых землях Беларусі, якія знаходзіліся па–за межамі генэральнай акругі і не падлягалі кампэтэнцыі БЦР.

Таму Готбэргу даводзілася дзейнічаць так, каб атрымаць як мага большы прапагандысцкі эфэкт і адначасова не парушыць інструкцыяў свайго начальства. Такім чынам, 1 сакавіка ён апублікаваў у сваім афіцыйным весьніку статут БЦР, пазначыўшы яго заднюю датаю — 21.12.1943 г., з спасылкай на распараджэньне Розэнбэрга ад 24.4.1942 г., якое не давала права на стварэньне такога органа. У лютым ён дазволіў Астроўскаму прызначыць сваіх акруговых намесьнікаў, якія тэарэтычна павінны былі заняцца фармаваньнем мясцовага апарату БЦР, а на самай справе — сачыць за правядзеньнем мабілізацыйнай кампаніі. Таму іх ня сталі прызначаць у тых акругах, дзе не праводзілася мабілізацыя (Лідзкая, Ганцавіцкая і Барысаўская акругі). Готбэрг пагадзіўся, каб БЦР пераняла на сябе кіраўніцтва арганізацыямі самапомачы, але ніякага практычнага значэньня такая іх перадача ня мела, бо сацыяльнае забесьпячэньне па–ранейшаму заставалася ў руках акруговых камісараў. Тое самае адбылося і ў галіне народнай асьветы. 21 лютага Готбэрг загадаў акруговым камісарам перадаць БЦР школьныя справы, аднак аддзелы асьветы і школьныя інспэктараты да канца акупацыі заставаліся ў складзе акруговых камісарыятаў[78]. Цяпер акруговыя прадстаўнікі БЦР маглі толькі аказваць нейкі ўплыў на школьную працу.

Трэба заўважыць, што пытаньне ўлады было цесна зьвязана з пытаньнем фінансаваньня гэтых галінаў грамадзкага жыцьця. БЦР існавала на датацыі генэральнага камісарыяту, ня маючы ўласнага бюджэту, і гэта зноў жа было вынікам яе юрыдычнага становішча. Таму "рэальна" яна магла распараджацца толькі ў такіх сфэрах дзейнасьці, дзе не магло паўстаць фінансавых праблемаў. Да такіх належалі Беларускае навуковае таварыства, Беларускае культурнае згуртаваньне (яно было створана ў пачатку лютага 1944 г.), бібліятэкі, што дагэтуль былі ўвогуле зачыненыя, а таксама народныя дамы. Тое самае было і зь менскім гарадзкім тэатрам — у красавіку 1944 г. пасьля рамонту ён быў перададзены на балянс БЦР, але фінансавала яго па–ранейшаму гарадзкая ўправа. Усе гэтыя перамены на самай справе мала што давалі, аднак вакол іх разьдзімалі шумную прапаганду. Маляваліся пышныя пляны на будучыню, праекты разьвіцьця народнай асьветы, адкрыцьцё ўнівэрсытэту і іншых вышэйшых школаў, пабудовы новых тэатраў, пэнсійныя праграмы і г.д., як бы забываючыся, што дні нямецкай акупацыі ўжо палічаныя[79].

Шуміха наконт перадачы БЦР адміністрацыі мела глыбейшы сэнс. Яна была разьлічана на тое, каб стварыць уражаньне, што на Беларусі і сапраўды паўстаў краёвы орган улады, і ад яго імя абвясьціць мабілізацыю ў "нацыянальнае" войска, бо менавіта так растлумачвалі мэты мабілізацыі і характар БКА. Але нічога супольнага з сапраўднымі намерамі Готбэрга гэта ня мела. 1 сакавіка на ўжо згаданай канфэрэнцыі ў ОМі ён прадставіў праект стварэньня ў Беларусі на працягу 4—6 тыдняў антыпартызанскага фармаваньня, т.зв. *Kampfgruppen von Gottberg*, сілаю 20 тыс. чалавек. У яго павінны былі ўліцца казацкія і каўкаскія часьці, брыгада Камінскага і беларускія батальёны[80]. Такім

[77] Справаздача аб перамовах з Готбэргам у ОМі 1.3.1944 ад 10.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 31/003.

[78] Справаздача камісара Менскай акругі ад 23.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 27/1426; Малецкі Я. С. 131, 151, 153.

[79] Генэза і дзейнасьць БЦР. С. 485—500 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

[80] Справаздача аб перамовах з Готбэргам у ОМі 1.3.1944...

чынам, БКА была задумана як адно з гэткіх фармаваньняў Готбэрга. Праўда, ён не называў праектаванага колькаснага складу БКА, але з тых дадзеных, якія падаў, можна зразумець, што гаворка вялася пра 10–тысячны кантынгент[81].

Амбіцыі Астроўскага сягалі значна вышэй: паводле яго загаду аб мабілізацыі, на прызыўныя пункты склікалі каля 40 тыс. мужчын[82]. І гэта зрабіла вялікае ўражаньне. Пра гэта ня толькі гаварыў сам Астроўскі і пісалі тагачасныя газэты, якія можна падазраваць у тэндэнцыйнасьці, але і Готбэрг, і акруговыя камісары адзначалі ў сваіх справаздачах, што мабілізацыя прайшла ўдала і толькі гаспадарчыя ўмовы не дазволілі дасягнуць яшчэ лепшых вынікаў[83]. Наваградзкі акруговы камісар паведамляў, што на яго тэрыторыі мабілізацыйнае распараджэньне выканана амаль поўнасьцю, прытым частка прызыўнікоў зьявілася нават з тых раёнаў, дзе гаспадарылі партызаны[84]. За малым выняткам так было паўсюль, рэдкім дысанансам прагучала справаздача слонімскага акруговага камісара: ён пісаў, што прызыўнікі ўкрываюцца ад мабілізацыі[85], аднак, магчыма, тым ён хацеў апраўдаць асабістае, вельмі адмоўнае, стаўленьне да такой акцыі[86]. Кіраўніцтва польскага падпольля ўважліва сачыла за ходам мабілізацыі і атрымлівала інфармацыю аб яе масавым характары[87], а камандуючы АК паведамляў: “Беларусы — цалкам за немцаў пасьля апошніх саступак, большасьць зь іх ідзе ў войска ахвотна”[88].

Аднак Готбэрг не плянаваў ствараць 40–тысячнага войска: гэта пагражала зрывам працы многіх патрэбных для Нямеччыны прадпрыемстваў і ўстановаў. Таму акруговыя камісары забракавалі больш за 50% прызыўнікоў і адаслалі іх дахаты. Так ці іначай, 15 сакавіка ў шэрагі БКА ўлілося 19 тыс. чалавек[89]. Пад канец сакавіка іх стала яшчэ больш — нешта каля 22 тыс. Да БКА было далучана і некалькі паліцыйных батальёнаў. Такім чынам асабовы склад БКА да канца сакавіка ўзьняўся да 24—25 тыс. чалавек, а праз паўмесяца зь іх ужо было сфармавана 39 пяхотных і 6 сапёрных батальёнаў[90]. На загад Готбэрга ад 10 сакавіка скасоўвалася пасада нямецкага камандзіра паліцыйных атрадаў, а самі гэтыя атрады разам з новаствoранымі батальёнамі БКА пераходзілі пад камандаваньне Кушаля. На базе вайсковага аддзелу БЦР паўстала вярхоўнае камандаваньне БКА, часам называнае яе штабам. Гэтыя захады сьведчылі аб стварэньні асобнага беларускага вайсковага фармаваньня.

Хаця акруговыя камісары адправілі дамоў многіх прызыўнікоў, Беларуская краёвая абарона ўсё ж была большай, чым плянаваў Готбэрг. Астроўскі меркаваў, што, паставіўшы яго перад фактам, зможа неяк вырашыць матэрыяльныя і арганізацыйныя праблемы, якія зьявіліся адразу ж пасьля мабілізацыі. Асабліва не хапала афіцэраў, зброі і абмундзіраваньня. Готбэрг спрабаваў выбіць у Бэрліне для БКА 20 тыс. вінтовак, аднак

[81] Асабовы склад брыгады Камінскага мусіў налічваць каля 7 тыс. чалавек, а казацкіх і каўкаскіх атрадаў — 2—3 тыс. Два казацкія батальёны былі сфармаваны ў Наваградзкай акрузе, а два каўкаскія — у Слонімскай // Загад Готбэрга ад 15.3.1944, AGKBZH, александрыйскія мікрафільмы, Т–175, r. 7/2508449.

[82] Тэлеграма Готбэрга Розэнбэргу ад 17.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы Т–454, r. 21/522.

[83] Справаздача Готбэрга ад 18.4.1944 г.; справаздача камісара Менскай акругі ад 25.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 27/1426.

[84] Справаздача камісара Наваградзкай акругі ад 22.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 27/1410.

[85] Справаздача камісара Слонімскай акругі ад 16.3.1944; Тамсама, r. 27/1381.

[86] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 98.

[87] Ліст дэлегатуры лёнданскага ўраду ад 6.5.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/11–49, k. 244.

[88] Рапарт “Лявіны” № 5 ад 19.4.1944. // Armia Krajowa w dokumentach. T. III. Londyn, 1976. S. 417.

[89] Тэлеграма Готбэрга Розэнбэргу ад 17.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 21/522.

[90] Тэлеграма Готбэрга ў ОМі ад 16.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 25/310; Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 29.

іх не прыслалі і, прынамсі, да сярэдзіны траўня[91]. Таму давялося абмежавацца зброяй зь мясцовых складоў — на 6—7 чалавек выдалі па адной вінтоўцы[92]. Пры гэтым сапёрныя батальёны выкарыстоўвалі на розных працах у рамках арганізацыі Тота. Магчыма, такім шляхам Готбэрг "карэктаваў" непамерныя амбіцыі Астроўскага.

Ня дзіва, што дысцыпліна ў войску пачала падаць, а дэзэртэрства расло, чаму спрыяла партызанская прапаганда. Таму ў сярэдзіне траўня Астроўскі быў вымушаны выставіць праект абмежаваньня колькаснага стану БКА да колькасьці адзінак зброі, якімі яна валодала. Гэты праект быў, практычна беручы, зацьверджаны БЦР пад прэтэкстам неабходнасьці пазбыцца нежаданых элемэнтаў[93]. Так паступова асабовы склад БКА зьмяншаўся, і ў апошнія тыдні акупацыі ён быў ужо шмат ніжэйшы, чым адразу пасьля мабілізацыі. А ў другой палове траўня пачалі паступаць партыі зброі. Толькі цяпер усё яшчэ слаба ўзброеныя батальёны пачалі выкарыстоўваць у барацьбе з партызанамі. 15 чэрвеня, г.зн. за два тыдні да канца акупацыі, у Менску была адкрыта афіцэрская школа БКА.

Апошнім мерапрыемствам БЦР на Беларусі стаў другі ўсебеларускі кангрэс, які адбыўся ў Менску 27.6.1944 г. пад гукі франтавой кананады. На яго зьехалася 1039 дэлегатаў зь беларускіх раёнаў, а таксама зь Літвы, Латвіі, Варшавы, Лодзі, Кракава, Вены, Кёнігсбэргу, Прагі і Бэрліна[94]. Магчыма, санкцыю на скліканьне кангрэсу Готбэрг атрымаў з Бэрліна, хутчэй за ўсё — ад Бэргера. Дакумэнтальных сьведчаньняў пра гэта не сустракалася, ёсьць толькі ўскосныя: на кангрэс сабраліся дэлегаты з–па–за межаў генэральнай акругі Беларусі, але яны павінны былі мець на гэта афіцыйны дазвол.

Кангрэс абвясьціў сябе паўнапраўным і найвышэйшым прадстаўніцтвам беларускага народу і прыняў рэзалюцыю, якая спасылалася на Дэклярацыю незалежнасьці Беларусі ад 25.3.1918 г., прынятую Радай БНР у Менску, аднак толькі на тую яе частку, дзе гаварылася аб поўным разрыве Беларусі з Расейскай дзяржавай ува ўсіх яе формах. Кангрэс выказаў сваё непрызнаньне БССР як формы беларускае дзяржаўнасьці, абвесьціў неправамоцнымі ўсе польска–савецкія пагадненьні, якія датычылі Беларусі, і пацьвердзіў, што адзіным законным прадстаўніцтвам беларускага народу і яго краю ёсьць сёньня БЦР на чале з прэзыдэнтам Астроўскім[95]. Апошні пункт рэзалюцыі стаў апатэозам усёй дзейнасьці Астроўскага за час акупацыі. Разам з тым гэта была адзіная згадка пра тагачасны момант, таму што палітычнае становішча на Беларусі за пэрыяд нямецкай акупацыі і яго пэрспэктывы на кангрэсе не разглядаліся. Таму рэзалюцыя аб разрыве дзяржаўных стасункаў з Расеяй аніяк не магла замяніць дэклярацыі аб нацыянальнай незалежнасьці. І справа была ня ў тым, што прыняць такую дэклярацыю перашкодзіла набліжэньне Чырвонай Арміі. Рэжысэрам кангрэсу было СД, а тэксты выступленьняў — зацьверджаны Готбэргам[96]. Таму яго рэзалюцыі не маглі супярэчыць тагачаснай лініі нямецкай усходняй палітыкі.

Магчыма, Астроўскі спадзяваўся, што рэзалюцыя кангрэсу, у якой БЦР была названа адзіным законным прадстаўніцтвам беларускага народу, прымусіць нямецкія ўлады паскорыць рашэньне аб наданьні ёй такога статусу, бо, нягледзячы на ўсе стараньні Готбэрга, жаданых перамен у гэтай справе не было. 26 чэрвеня, г.зн. напярэдадні эвакуацыі зь Менску, у ОМі згаджаліся, што можна было б пашырыць задачы БЦР, ды толькі да пэўнай ступені, але аб тым, каб ператварыць яе ў нацыянальны ўрад, "пакуль што ня можа быць гаворкі"[97].

91 За дзяржаўную незалежнасьць... С. 107.
92 Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 26.
93 За дзяржаўную незалежнасьць... С. 107—108.
94 Другі ўсебеларускі кангрэс... С. 9, 39.
95 Тамсама, с. 67.
96 Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 167.
97 Мэмарыял Лябса "Die Verwaltung der besetzten Ostgebiete" ад 26.6.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 24/342.

Таму да канца акупацыі праўнае становішча БЦР так і не было вызначанае, і дзеля гэтага пераняць на сябе адміністрацыйныя функцыі яна не магла. Такім чынам, за шэсьць месяцаў свайго існаваньня БЦР ня стала ня чым іншым, як толькі прапагандысцкім інструмэнтам Готбэрга, чыім заданьнем было да канца акупацыі ўтрымліваць нямецкія пазыцыі на Беларусі. Тое самае датычыць і БКА — яе дзейнасьцю фактычна кіравалі немцы. Пасьля вайны яе намінальны камандзір Кушаль прызнаваў, што “немцы зусім ня мелі намеру дазволіць беларусам стварыць нейкую беларускую збройную сілу, ім патрэбны былі толькі людзі, якіх беларусы павінны ім даць, а кіраваць людзьмі меліся яны самі бяз нашай помачы”[98]. Т.зв. штаб БКА, які пасьля правядзеньня мабілізацыі павінен быў займацца выключна прапагандаю сярод салдат, мог зь імі кантактаваць толькі з згоды нямецкага начальства[99].

Такім чынам, Готбэрг ніколі ня быў прыхільнікам беларускага нацыяналізму: ён зрабіў стаўку на БЦР, каб супрацьпаставіць яе ўплыву савецкай прапаганды на грамадзтва, стварыць міражы нацыянальнай дзяржавы з сваім урадам, нацыянальнай культурай і дабрабытам. На гэта працавала ўсё: і прэса (яе наклады ў той пэрыяд значна павысіліся), і СБМ, і іншыя ініцыятывы. Менскі гарадзкі камісар Бэкер адкрыта прызнаў гэта ў сваёй справаздачы, зробленай ужо пасьля эвакуацыі: праведзеныя ў апошнія месяцы акупацыі акцыі (аднаўленьне зруйнаваных дамоў, спаборніцтва садаводаў, разьвіцьцё гарадзкога трамвайнага транспарту, закладка новых могілкаў, правядзеньне конкурсу на самы прыгожы дом, адкрыцьцё музычнай школы, аднаўленьне спэктакляў гарадзкога тэатру, актывізацыя культурнага жыцьця, нарэшце, сьвяткаваньне ўгодкаў “вызваленьня” (22 чэрвеня)) былі зрэалізаваныя з палітычных меркаваньняў дзеля таго, каб процідзейнічаць эвакуацыйнаму псыхозу[100].

Астроўскі таксама вёў складаную гульню. Улетку 1941 г. ён быў упэўнены ў перамозе Нямеччыны, аднак ужо ў лістападзе 1942 г. засумняваўся ў выніках вайны, пра гэта сьведчаць згаданыя яго перамовы з Галоўным камандаваньнем АК. Тым больш не магло ў яго ўзьнікнуць ілюзій праз год. Магло б здацца, што ён сьвядома зрабіў стаўку на безнадзейную карту, калі распачаў стварэньне БЦР. Але гэта не зусім так. Галоўным матывам яго дзейнасьці быў разьлік на тое, што беларусам удасца з дапамогай Нямеччыны ўзмацніць свае нацыянальныя пазыцыі і, перш за ўсё, стварыць уласныя ўзброеныя сілы, зь якімі пасьля можна было б распачаць барацьбу за незалежнасьць Беларусі. З гэтага гледзішча тактыка Астроўскага, па сутнасьці, не адрозьнівалася ад паводзін віленскіх і навагрудзкіх атрадаў АК. Аднак на гэтым і канчалася аналёгія: польскія атрады разьлічвалі на тое, што СССР прызнае даверасьнёўскія межы, і заставаліся ў большасьці сваёй на месцы, затое Астроўскі мог спадзявацца толькі на эвакуацыю і пазьнейшую вайну паміж заходнімі альянтамі і Савецкім Саюзам пасьля перамогі над Нямеччынай.

Астроўскі, калі пачаў разьвіваць гэтую канцэпцыю, даволі рана прыйшоў да высновы, што менавіта Польшча магла б стаць галоўнай апорай яе рэалізацыі, і ўзяўся рыхтаваць глебу для будучага саюзу. Яго ня вельмі турбавалі ранейшыя няўдачы беларускіх дзяячоў у гэтай галіне, і ён не зьвяртаў увагі на польска–беларускія канфлікты ў правінцыі, якія абвастралі ўзаемную варожасьць[101]. У студзені 1944 г. ён выступіў з прамовай, у якой заклікаў усе нацменшасьці на Беларусі прыняць удзел у супольнай барацьбе з бальшавізмам[102]. У ГК АК гэты заклік успрынялі як прапанову польска–беларускага суп-

[98] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 18.
[99] Тамсама, с. 28—29.
[100] Справаздача Бэкера ад 27.7.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/226.
[101] Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру (1941—1944). С. 464—484 у гэтым выданьні. — *Рэд.*
[102] Раніца. 1944. 30 студзеня.

рацоўніцтва[103]. Адначасова акоўская выведка ў Менску выслала ў Варшаву паведамленьне, якое павінна было заахвоціць кіраўнікоў падпольля да перамоў з Астроўскім. Магчыма, ён сам быў яго ініцыятарам. А гаварылася ў ім вось аб чым:

> Беларусы лічаць, што завэрбаваныя і ўзброеныя немцамі беларускія атрады неўзабаве пяройдуць на бок польскай арміі для супольнай барацьбы з Расеяй за ўсходнія крэсы. Беларусы, сярод якіх ёсьць былыя польскія, савецкія і нямецкія грамадзяне і якія цяпер займаюць самае высокае становішча, 2,5 гады працавалі ў савецкай Беларусі, пазналі ўплыў расейскага камунізму, пазналі патрэбы і жаданьні насельніцтва, і, што характэрна, амаль усе яны переканаьня, што лёс Беларусі будзе вырашаць Польшча, а не Расея. Польшча павінна зразумець, што беларускі і польскі народ, які 25 гадоў жыў за кардонам, сумаваў па ёй і чакаў яе прыходу. Параза Польшчы ў 1939 г. была для яго вялікім ударам, ён бедаваў аб Польшчы і яе нязьдзейсьненых спадзяваньнях. Аднак сёньня, асабліва пасьля абвастрэньня польска–савецкага канфлікту, вера ў Польшчу ажыла з даўняй сілай. Фраза “толькі Польшча нам паможа” ў кожнага на вуснах, толькі шэпчуць яе паціху. Традыцыі 1919—1920 г. не аслаблі[104].

Аднак з Варшавы водгуку не было. Затое мабілізацыя ў БКА зрабіла тут значна большае ўражаньне, і ня дзіва — зь Менску ў Варшаву ішлі разьдзьмутыя зьвесткі, гаварылася нават аб стварэньні 200–тысячнага беларускага войска. Таму ў красавіку 1944 г. Астроўскі адчуваў сябе больш упэўнена і выслаў для перамоў у Варшаву свайго даверанага супрацоўніка Адама Дэмідэцкага–Дэмідовіча з новымі прапановамі. Размова павінна была весьціся аб заключэньні будучай беларуска–польскай фэдэрацыі, а ў дадзены момант, падчас вайны, — аб стварэньні беларускага прадстаўніцтва пры польскім лёнданскім урадзе: гэты ўрад рэпрэзэнтоўваў бы інтарэсы Беларусі на міжнароднай арэне[105].

Такія прапановы ўзбудзілі пэўнае зацікаўленьне. 2 траўня камандуючы АК паведамляў ураду: “Крызіс Беларускай цэнтральнай рады. Астроўскі шукае паразуменьня з нашымі палітычнымі коламі”. А 17 траўня даносіў: “Астроўскі і Кушаль, нягледзячы на пранямецкую тактыку, бачаць апору для Беларусі ў Польшчы”[106]. Дэталёвае абгрунтаваньне мэтазгоднасьці супрацоўніцтва з Астроўскім ГК АК прывяло ў рапарце ад 20 траўня. У дакумэнце з разуменьнем гаварылася аб палітыцы БЦР і зьвязаных зь ёю дзяячоў, пісалася аб тым, што рабіць стаўку на заходніх саюзьнікаў ім ня мае сэнсу, бо тыя “пра беларусаў нічога ня ведаюць, дый справа беларуская — для іх не праблема”. У сувязі з гэтым Галоўнае камандаваньне падкрэсьлівала дадатную ролю Астроўскага, які, нягледзячы на супрацiў у сваім грамадзтве, заклікае да беларуска–польскага супрацоўніцтва і мяркуе адвесьці беларускія ўзброеныя сілы на польскую тэрыторыю[107]. З гэтага можна зрабіць выснову: Астроўскі выдатна разумеў, што ў найбліжэйшы момант яму давядзецца пакінуць Менск, таму лічыў сваю дзейнасьць на Беларусі зыходным пунктам для далейшай палітычнай гульні.

Астроўскі разыгрываў адначасова дзьве партыі: яўную — зь немцамі і патаемную —

---

[103] Miesięczna Informacja Narodowościowa z 20.5.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/III–125, k. 3.

[104] Рапарт “Савецкая Беларусь на пачатку 1944 г.” // ЦА ЦК ПАРП, 202/III–134, t. I, k. 65. Гэта была адзіная інфармацыя зь Беларусі такога зьместу, бо рапарт, відаць, быў зроблены на спэцыяльнае заданьне. Іншыя паведамленьні АК сьведчылі аб росьце сярод беларусаў прасавецкіх настрояў і варожасьці да палякаў. Імаверна, што аўтарам гэтай інфармацыі быў Вітальд Буткевіч альбо Адам Дэмідэцкі–Дэмідовіч, у пачатку 1944 г. — чалец АК і супрацоўнік Астроўскага, удзельнік другога ўсебеларускага кангрэсу.

[105] Туронак Ю. Беларускае пытаньне... С. 464—484 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

[106] Рапарты “Лявіны” цэнтру № 7 і 9 // Armija Krajowa w Dokumentach... S. 430, 448.

[107] Miesięczna Informacja Narodowościowa z 20.5.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/III–125, k. 3.

з палякамі. І пры ўсім тым не забываўся і пра савецкі варыянт[108]. У Менску ён займаў такую пазыцыю, якая дазваляла яму даволі празрыста і публічна гаварыць аб прынцыпах сваёй палітычнай тактыкі. “Мы не фантасты, а рэальныя палітыкі і, маючы 25–гадовы досьвед нацыянальнай трагедыі, добра разумеем, што пры сучасных абставінах беларускай нацыі, ідучы па шляху да зьдзяйсьненьня свайго найвышэйшага ідэалу, павінна шукаць сабе помачы з боку больш магутнага прыязнага суседа. Палітычная каньюнктура ў сучасны момант зложылася так, што гэтым апекуном–пратэктарам для беларускага народу ёсьць Нямеччына”[109]. Менавіта ў гэты час ён распачаў тайныя перамовы з АК, значыць, чакаў зьмены палітычнае каньюнктуры.

З гледзішча галоўнай задачы, г.зн. барацьбы з партызанскім рухам, усе паліцыйныя (надзвычайнае становішча, спэцыяльная ахова Менску) і прапагандысцкія захады Готбэрга не прынесьлі жаданага посьпеху. Праўда, у Менску зьменшылася колькасьць дывэрсіяў, цэлыя партызанскія зоны ўдалося заблякаваць, але дабіцца пералому ў партызанскай вайне было ўжо немагчыма[110]. Дзейнасьць БЦР таксама не аказала на яе вялікага ўплыву. У красавіку 1944 г. Готбэрг паведамляў, што толькі невялікая частка насельніцтва Беларусі радасна сустрэла стварэньне БЦР, затое ў масе сваёй людзі занялі пазыцыю абыякавасьці або вычэкваньня[111]. Падобнае меркаваньне выказваў і камісар Менскае акругі. Тое самае адбывалася і ў Баранавіцкай акрузе, якая лічылася за апірышча БЦР. Яе акруговы камісар Вэрнэр сьцьвярджаў, што вакол Рады гуртавалася толькі невялікая жменька інтэлігентаў, а большая частка беларусаў трымалася абыякава і пасіўна, галоўным чынам, з увагі на партызанскую пагрозу[112]. Лідзкі камісар пісаў, што ў яго акрузе наогул не існавала БЦР і БКА[113].

Цікавыя заўвагі падае ў сваёй справаздачы глыбоцкі акруговы камісар Гахман: “Не магло быць ніякай гаворкі пра давер беларускага насельніцтва да БЦР”. На яго думку, адною з важкіх прычын гэтага былі канфлікты, зьвязаныя зь дзейнасьцю абранага “нешчасьлівай рукою” акруговага прадстаўніка БЦР Івана Касяка. Сваімі дзеяньнямі ён болей шкодзіў справе, чым дапамагаў, так што ў акрузе сярод беларусаў нават павялічыліся прапольскія сымпатыі. Гахман пісаў, што культурная праца апынулася ў застоі пасьля таго, як ёю пачаў загадваць прадстаўнік БЦР. “Спатрэбіўся ўвесь мой аўтарытэт, каб хоць працягваць культурную дзейнасьць, якую распачало нямецкая цывільная адміністрацыя”[114].

Натуральна, стаўленьне насельніцтва да БЦР аб'ектыўна залежала ад ваенна–палітычнай сытуацыі. У гэты час ужо ні ў каго не заставалася ілюзій, канец акупацыі непазьбежна набліжаўся, і трэба было лічыцца з тым, што савецкая ўлада неўзабаве вер-

[108] Паводле паведамленьня, зробленага мне Анэляй Катковіч, яе даўняя прыяцелька зь Віленскай беларускай гімназіі Дуня Казёл пасьля вайны прыяжджала два–тры разы з БССР у Польшчу і расказвала, што ў 1944 г. у Менску на загад Астроўскага яна перадавала савецкім партызанам даручаныя ёй інфармацыі наконт БЦР і што пасьля вайны за гэтую дзейнасьць яна павінна была атрымаць нейкі мэдаль. Спраўдзіць гэтую інфармацыю ў маіх умовах нельга, аднак прыклад Баляслава Пясэцкага з генэралам Сяровым сьведчыць, што такая магчымасьць не была выключана.

[109] Раніца. 1944. 6 лютага.

[110] У тым ліку была і апэрацыя “Frühlingfest”, праведзеная вясною 1944 г. у раёне Полацку і Лепеля. Нягледзячы на моцную авіяцыйную падтрымку з–за лініі фронту (толькі за адну ноч на партызанскім лётнішчы Сарочына прызямлілася каля 100 савецкіх самалётаў), партызаны панесьлі вялікія страты: 7011 чалавек загінула ў баі, 6928 — трапіла ў палон, а 349 перайшло на бок немцаў. Тым ня менш каля 4000 партызанаў здолела выйсьці з абкружэньня // Hesse. S. 243.

[111] Справаздача Готбэрга ад 18.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 26/211.

[112] Справаздача камісара Баранавіцкай акругі ад 11.8.1944. Тамсама, r. 102/110.

[113] Справаздача камісара Лідзкай акругі ад 15.8.1944. Тамсама, r. 102/165.

[114] Справаздача камісара Глыбоцкай акругі ад 16.8.1944. Тамсама, r. 102/306—308.

нецца. Аднак гэта не азначала, што прапагандысцкія захады Готбэрга, у т.л. і БЦР, не прынесьлі ніякага плёну. Ужо сам факт яе стварэньня істотна ўплываў на рост нацыяналістычных тэндэнцыяў у грамадзтве. Нягледзячы на яе няпэўны статус, які звычайна мала каго бянтэжыў, на гэты орган глядзелі як на пэўную форму беларускага ўраду, як на праяву новай нямецкай палітыкі на Беларусі, урэшце, як на своеасаблівы прывілей, зроблены для яе. Язэп Малецкі, прадстаўнік Астроўскага ў Вялейцы, быў упэўнены, што за час панаваньня Готбэрга Беларусь у галіне дзяржаўнага будаўніцтва значна апярэдзіла краіны Прыбалтыкі і Украіну, дзе такіх органаў стварыць не дазволілі[115]. І гэта была даволі распаўсюджаная думка. У той час вэрбоўка людзей для працы ў Нямеччыне вялася ўжо больш памяркоўнымі мэтадамі, і гэтыя перамены людзі таксама зьвязвалі з уплывам БЦР.

І сапраўды, новыя, больш канкрэтныя мэтады прапаганды лепш узьдзейнічалі на сьвядомасьць, чым колішнія дэкларацыі і выступленьні, якія не ўзбуджалі асаблівага даверу. Нарэшце перасталі замоўчваць дзейнасьць партызан, бо раней гэтай тэмы сарамліва пазьбягалі. Цяпер публікавалі паасобныя факты з адпаведнымі камэнтарамі, якія павінны былі скампрамэтаваць партызанскі рух у вачох грамадзкасьці. Пры гэтым асаблівы націск рабіўся на антыбеларускія выступленьні партызан, якія і сапраўды здараліся не адзін раз. Закіды прапаганды было няпроста аспрэчваць: паленьне партызанамі беларускіх школаў, забойствы і запалохваньне настаўнікаў — усё гэта былі сапраўдныя факты, зь якіх рабіліся высновы аб тым, што такая дзейнасьць супярэчыла элемэнтарным нацыянальным інтарэсам, у прыватнасьці, разьвіцьцю беларускай нацыянальнай школы[116]. У адным з выступленьняў Астроўскі дэмагагічна абвясьціў, што сам пайшоў бы ў партызаны, каб толькі меў пэўнасьць, што яны змагаюцца за незалежнасьць Беларусі[117].

Адной з мэтаў новага курсу Готбэрга стала актывізацыя нацыяналістычных настрояў сярод сяброў СБМ. Фармальна Саюз беларускай моладзі да канца акупацыі заставаўся ў распараджэньні генэральнага камісарыяту і таму апынуўся ў лепшым матэрыяльным становішчы, чым іншыя грамадзкія арганізацыі, што перайшлі пад кампэтэнцыю БЦР. Восеньню 1943 г. быў адкрыты яшчэ адзін навучальны цэнтар у Фларыянаве Баранавіцкай акругі, а ў пачатку 1944 г. — яшчэ дзьве школы ў Менску. Па–ранейшаму арганізоўваліся экскурсіі ў Нямеччыну. Пры гэтым колькасьць сяброў СБМ хутка ўзрасла[118]. Нягледзячы на ўсе стараньні партызан, перашкодзіць разьвіцьцю СБМ ім не ўдалося. Уласная ўніформа і эмблемы, палітычная адукацыя, спэцыяльныя публікацыі, культурна–асьветная дзейнасьць, нарэшце, вайсковая муштра, каманды, лягеры і беларускія маршавыя песьні, якія загучалі на Беларусі ўпершыню і былі чымсьці абсалютна нечуваным ня толькі для моладзі, але і для старэйшых, — усё гэта прываблівала ў шэрагі СБМ новых і новых сяброў. Палітычнае значэньне Саюзу беларускай моладзі было значна большае за тое, што мелі аналягічныя арганізацыі ў Латвіі і Эстоніі.

Таму акруговыя камісары, якія ў сваіх справаздачах, як правіла, рэзка крытыка-

---

[115] Малецкі Я. С. 122.

[116] У Слонімскай акрузе партызаны спалілі агулам 80 школаў і забілі, выгналі, забралі пэўную колькасьць настаўнікаў. У выніку гэтых дзеяньняў вясною 1944 г. у Наваградзкай акрузе не працавала амаль палова школаў, а ў Менскай акрузе — каля 80% // Справаздачы камісараў Наваградзкай і Слонімскай акруг, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/335 і 1410, а таксама — камісара Менскай акругі. Тамсама, r. 27/1427.

[117] Kalush V. In the Service of the People for a Free Byelorussia. London, 1964. P. 56.

[118] Herzog R. Besatzungsverwaltung in den besetzten Ostgebieten — Abteilung Jugend. Tübingen, 1960. S. 27—30; Вініцкі А. Матэрыялы да гісторыі беларускага скаўтынгу. Лос–Анджэлес, 1972. С 14, машынапіс захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

валі БЦР, звычайна вельмі дадатна ацэньвалі дзейнасьць СБМ. Яны ўхвалялі ня толькі выхаваўчую працу ў беларускім нацыянальным духу, якую праводзіла гэтая арганізацыя, але і паступленьне моладзі на працу на заводах Люфтвафэ ў Менску і ў Нямеччыне. У чэрвені 1944 г., напярэдадні наступу Чырвонай Арміі, у Нямеччыну выехалі амаль 5000 сяброў СБМ, якія добраахвотна запісаліся ў дапаможную службу Люфтвафэ.

Гэрцаг, разглядаючы вынікі гэтай акцыі, заўважыў, што добраахвотнае паступленьне на дапаможную службу ў нямецкую армію летам 1944 г. — факт "амаль неверагодны". Ён дашукваўся прычын такой зьявы, спрабаваў вытлумачыць яе нянавісьцю да бальшавізму, цягаю да прыгодаў ці іншымі матывамі, аднак нідзе не абмовіўся аб прымусовых наборах[119]. Далін[120], а таксама адзін з колішніх дзяячоў СБМ М. Лужынскі, які быў вучнем Маладэчанскай сярэдняй гандлёвай школы, пацьвярджаюць, што акцыя мела добраахвотны характар. Лужынскі апісваў, як у пачатку траўня 1944 г. у гэтую школу прыбылі акруговы кіраўнік СБМ Сьценьнік і лейтэнант паветраных сілаў Фэрман, які сказаў вучнёўскай грамадзе:

> Сёньня разыгрываецца лёс усяе Эўропы, а таксама вашае Бацькаўшчыны. Беларусы ўжо стварылі сваю армію ў форме Беларускае краёвае абароны. Аднак мадэрная армія ня можа быць эфэктыўнай без свайго лётніцтва. Я заклікаю вас, юнакі,ісьці ахвотнікамі ў паветраныя збройныя сілы. Некаторыя з вас стануць пілётамі, іншыя — навігатарамі або бортмэханікамі.

І пайшлі — 46 хлапцоў[121].

Як паведаміў Янка Жамойцін, акруговы кіраўнік СБМ у Наваградку, у яго акрузе даводзілася нават стрымліваць напор моладзі, якая жадала служыць у Люфтвафэ. 16—20–гадовым хлопцам падабалася прыгожая лётчыцкая форма, яны думалі, што атрымаюць зброю, стануць лётчыкамі. Адзіным ідэалягічным матывам быў страх перад вяртаньнем Чырвонай Арміі.

Сярод дарослых таксама адзначаўся пэўны рост антысавецкіх і нацыяналістычных настрояў, аднак акрэсьліць іх дакладна цяжэй, чым у моладзевым асяродзьдзі. Так, у красавіку 1944 г. Готбэрг паведамляў, што шмат у якіх раёнах жыхары выказвалі жаданьне арганізаваць у сябе абаронныя вёскі, але зьдзейсьніць гэтыя пажаданьні было немагчыма толькі таму, што не хапала зброі[122]. Менскі гарадзкі камісар Бэкер зь зьдзіўленьнем сьцьвярджаў, што 8000 жыхароў гораду добраахвотна, без прынукі выйшлі на пабудову ўмацаваньняў вакол гораду перад наступам Чырвонай Арміі. Бэкер адзначаў, што 80% менчукоў "не вітала" набліжэньня савецкіх войскаў[123]. Пэўная частка мясцовых жыхароў лепш згаджалася жыць у акупацыйных умовах і мець перад сабой імглістую нацыянальную пэрспэктыву, чым апынуцца зноў у савецкай рэчаіснасьці. Такія ж настроі несьлі з сабой і ўцекачы з усходу.

У гэтых адносінах цікава разглядзець справу БКА з увагі на яе шматвымернасьць. Мабілізацыя, бясспрэчна, была актам прымусовым, і, напэўна, большасьць прызыўнікоў не адчувала маральнай адказнасьці за сваю службу. Тым ня менш нельга абмінуць маўчаньнем і той факт, што 40 тыс., а паводле зьвестак Кушаля нават і 50 тыс., чала-

---

[119] Herzog. S. 68.

[120] Dallin. P. 588.

[121] Лужынскі М. Яшчэ пра Маладэчанскую гандлёвую школу // Беларус. 1983. Студзень–люты.

[122] Справаздача Готбэрга ад 18.4.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 26/211.

[123] Справаздача камісара Менскай гарадзкой акругі ад 27.7.1944 AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/266.

век[124] прыйшлі ўсё ж такі на прызыўныя камісіі БКА. Гэтыя людзі ведалі, што іх будуць выкарыстоўваць для барацьбы з савецкімі партызанамі, і не іх віна або заслуга, што не хапіла часу, каб даць ім зброю, і большай частцы давялося вярнуцца дадому, а ваяваць пайшлі толькі нямногія батальёны. У тагачасных умовах яны маглі пазьбегнуць мабілізацыі і сысьці ў партызаны. Гэтага, аднак, яны не зрабілі. Улады, безумоўна, пагражалі за такія ўчынкі рэпрэсіямі, але ў адваротным выпадку тыя самыя рэпрэсіі ўчынялі і партызаны. Цяжка таму спрачацца з тым, што мабілізацыя ў БКА стала сур'ёзным палітычным посьпехам Готбэрга і Астроўскага.

Варта таму прыгледзецца больш уважліва да таго, як паводзілі сябе гэтыя людзі ў дні наступу Чырвонай Арміі, які пачаўся 23 чэрвеня і разьвіваўся вельмі шпарка. 3–га ліпеня савецкія войскі ўвайшлі ў Менск, 5–га — у Маладэчна, 8–га — у Баранавічы, 9–га — у Ліду, а 16–га — у Горадню. Такім чынам, часу для эвакуацыі большасьці батальёнаў БКА было дастаткова. Але гэтая эвакуацыя ня толькі не праводзілася — яна нават не плянавалася; батальёны не атрымалі загадзя адпаведных загадаў[125]. Перад тым, як пакінуць Менск, Готбэрг нібыта зьбіраўся загадаць акруговым камандзірам паліцыі адвесьці часьці БКА на Захад, аднак, на думку Кушаля, гэтыя камандзіры больш сьцераглі ўласную шкуру і шмат дзе абвесьцілі дэмабілізацыю батальёнаў БКА[126]. Але ж гэта не зусім дакладна: пра такія рашэньні павінны былі ведаць акруговыя камісары, а ў справаздачах, якія складаліся пасьля эвакуацыі, на гэты конт нічога ня значыцца. Пасьля таго, як 27 чэрвеня зь Менску зьнік т.зв. нямецкі штаб сувязі БКА, Астроўскі і Кушаль не змаглі выдаць атрадам БКА аніякіх распараджэньняў[127].

Беларускія батальёны засталіся кінутыя на ўласны лёс і ў пошуках выйсьця кіраваліся пераважна загадамі сваіх камандзіраў. А. Вініцкі выпадкова аказаўся беспасярэднім сьведкам гэтых падзеяў у Баранавіцкай акрузе, і вось што ён пісаў:

> Пад вечар 30–га чэрвеня я прыйшоў на пляц каля казармаў... і выпадкам быў сьведкам дэмабілізацыі батальёну, які налічваў каля 700 жаўнераў. Перад фронтам выстраеных ваякаў стаў камандзір батальёну. Пасьля кароткай інфармацыі аб заіснаваўшай сытуацыі на фронце ён скончыў гутарку так: "Хто паедзе з намі, дык астацца на месцы ў шэрагу, а рэшта можа йсьці дамоў".
> Раптам жаўнерская маса ўзварухнулася і рынула ў казармы, каб забраць там свае рэчы і бегчы дамоў. На месцы ў шэрагу засталося 18 ваякаў, пераважна — падафіцэраў, а назаўтра на выезд зьявілася ўжо меншая іх колькасьць[128].

Такім чынам, тыя самыя людзі, што ў сакавіку паслухмяна ішлі на прызыўныя пункты, цяпер, калі ўлада пачала крушыцца, хутка пакінулі войска, у якое яна іх прызвала. За самы кароткі час, бяз бою, БКА перастала існаваць; толькі невялічкая частка салдат адыйшла на Захад[129]. І гэтае адступленьне, як і добраахвотны запіс моладзі ў Люфтвафэ, на думку некаторых нямецкіх дасьледчыкаў, "амаль немагчыма было зразумець". Акруговы баранавіцкі камісар Вэрнэр адзначаў: "Палова сялян з абаронных вёсак эвакуавалася, а батальёны БКА ўцяклі"[130].

---

[124] Кушаль Ф. Беларускаю рукою // Бацькаўшчына. 1955. 27 лістапада.
[125] Вініцкі А. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне 1939—1951. Ч. 1. Лос–Анджэлес, 1968. С. 3. Копія машынапісу. Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане.
[126] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 33—34.
[127] Тамсама.
[128] Вініцкі А. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне... С. 3.
[129] Крыга А. Гадавіна вялікага ўздыму і вялікай трагедыі // Беларус. 1964. Сакавік.
[130] Справаздача камісара Баранавіцкай акругі ад 11.8.1944, AAN александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 102/151.

Прыклад з БКА асабліва важны і характэрны: ён вельмі выяўна адлюстроўваў сьвядомасьць і тыповыя паводзіны “цьвярозых рэалістаў” — пераважнай большасьці грамадзтва, што пад славутай пасіўнасьцю прыкрывала сваё поўнае бясьсільле перад дзьвюма вялікімі армадамі, якія ў страшным двубоі вырашалі яе лёс. Насельніцтва, што апынулася паміж молатам і кавалдам, проста не магло ўвесь час адстойваць нейкія сапраўдныя палітычныя погляды, уся яго так званая пазыцыя зьмяшчалася ў адным слове — “выжыць!”. Таму нярэдка здаралася, што вонкавыя праявы сымпатыяў і нават колер і фасон мундзіра ўводзілі ў зман: яны маглі быць і пранямецкія і прасавецкія. Салдацкая прысяга на вернасьць Беларусі ў тагачаснай сытуацыі мела для гэтых людзей ня большае значэньне, чым колішняя іх прысяга Польшчы альбо Савецкаму Саюзу. Зрэшты, ужо праз пару тыдняў, пасьля пераходу часткі салдат БКА ў шэрагі Чырвонай Арміі, яны маглі яшчэ раз выявіць сваю вернасьць. Такую “пазыцыю” прадвызначала не само насельніцтва, а пануючая ўлада — за апошнія некалькі гадоў яна зьмянялася занадта часта.

Пераважная частка беларускага грамадзтва прадчувала блізкую зьмену гэтай улады і таму ня вельмі цягнулася да БЦР. Нягледзячы на гэта, моцны парыў нацыяналізму ня мог не пакінуць сьледу ў людзкой сьвядомасьці. Міт пра будаўніцтва беларускай дзяржавы і войска, арганізацыю нацыянальных установаў і скліканьне кангрэсу так удала быў пушчаны Готбэргам і Астроўскім, што жыве і да сёньняшняга дня.

## Дзейнасьць БЦР у Нямеччыне

Летам 1944 г. Чырвоная Армія дасягнула лініі Віслы, а войскі заходніх саюзьнікаў здабылі Парыж і наблізіліся да нямецкай мяжы. Разгром трэцяга райху стаў справаю найбліжэйшай будучыні. Толькі ў гэтай сытуацыі ў штабе Гімлера высьпела канцэпцыя стварэньня супольнага антыбальшавіцкага фронту народаў Расеі пад камандаваньнем генэрала Ўласава. Туды павінны былі ўвайсьці ня толькі расейцы, але і ўкраінцы, беларусы і г.д. Нямеччына ўжо страціла амаль усю тэрыторыю СССР, таму для барацьбы з Чырвонай Арміяй немцы меркавалі выкарыстаць усходніх работнікаў, ваеннапалонных альбо ўцекачоў, што апынуліся на тэрыторыі райху. Ставіўся разьлік і на прапагандысцкі эфэкт, нават на антысталінскую рэвалюцыю ў СССР. Першае спатканьне Гімлера з Уласавым было прызначана на канец ліпеня, але ў гэтыя пляны ўварваўся замах на Гітлера, таму сустрэчу давялося адкласьці.

Тым часам Розэнбэрг па–ранейшаму трымаўся думкі, што галоўным матывам супрацоўніцтва нерасейскіх народаў СССР зь немцамі была надзея на стварэньне ўласных нацыянальных дзяржаў, незалежных ад расейскага ўплыву. Таму ён прадбачыў, што прадстаўнікі гэтых народаў будуць супраць гімлераўскага праекту, які прадугледжваў падпарадкаваньне іх нацыянальных органаў і вайсковых часьцей Уласаву. І хаця канчатковая мэта абедзьвюх канцэпцыяў была тая самая — г.зн. абарона Нямеччыны ад чырвоных войскаў, — але сродкі яе дасягненьня прынцыпова адрозьніваліся. Гітлер цяпер не займаў цьвёрдай пазыцыі ў гэтай справе: ён не падтрымліваў і не перашкаджаў Гімлеру і Розэнбэргу ажыцьцяўляць іх праекты, якія ўжо не маглі перамяніць сытуацыю[131].

Падобна на тое, што меркаваньні Розэнбэрга падзяляла Галоўная ўправа СС. Пра гэта сьведчыць адзін цікавы факт: у ліпені, калі Гімлер плянаваў правесьці першае спат-

[131] Праблема руху Ўласава і стаўленьня бэрлінскіх кіраўнічых колаў да гэтага руху дэталёва разгледжаныя ў працах: Thorwald J. Wenn sie verderben wollen. Stuttgart, 1952; Fischer G. Soviet Opposition to Stalin. Harward University Press. Cambridge (Mass), 1952. Гл. таксама: Dallin. P. 637 і далей.

каньне з Уласавым, у рамках яго ведамства ўзьнік спэцыяльны аддзел, т.зв. *Freiwilligen–Leitstelle Ost* (аддзел добраахвотных сілаў з Усходу), пад кіраўніцтвам штурмбанфюрэра СС доктара Фрыца Арльта. Задачаю новага органа стала арганізацыя ўсходніх вайсковых фармаваньняў. Арльт падзяліў свой аддзел на шэраг нацыянальных сэктараў, сярод якіх быў і беларускі. Па ўсім было відаць, што для кожнай нацыянальнасьці меркавалася стварыць асобныя часьці *Waffen–SS*. У ОМі таксама былі створаны асобныя нацсэкцыі (Leitstelle), якія павінны былі сачыць за нацыянальнымі арганізацыямі, разьмешчанымі ў Нямеччыне. Кіраўніком беларускай сэкцыі (*Weissruthenische Leitstelle*) стаў доктар Любэ.

Усе гэтыя арганізацыйныя зьмены распачаліся ў момант адступленьня нямецкіх войскаў зь Беларусі, таму Астроўскі падчас ад'езду зь Менску яшчэ нічога пра іх ня ведаў. Ён, безумоўна, прадбачыў, што немцаў пагоняць зь Беларусі, аднак ня думаў, што гэта станецца так хутка і ператворыцца ў сапраўдны разгром. Яго плян арганізаванай эвакуацыі войска быў перакрэсьлены, а разам зь ім патанулі і ўсе далейшыя палітычныя камбінацыі. Ён стаў палкаводцам бяз войска — не было чаго і разьлічваць на кантакт з польскім падпольлем, якое пасьля сутыкненьня з Чырвонай Арміяй само апынулася ў крызісе. Мяркуючы па ўсім, у гэты час ён лічыў, што роля БЦР скончылася, ці, у найлепшым выпадку, стала пад пытальнік.

Паасобныя дэталі эвакуацыі пацьвярджаюць, што БЦР у гэты час апынулася ў няпэўным становішчы. 30 чэрвеня Рада БЦР пакінула Менск. Большасьць яе сяброў скіравалася ў Кёнігсбэрг. Тым часам Астроўскі адкалоўся ад сваіх сяброў і вярнуўся ў Лодзь, куды пераехаў і Кушаль. БЦР рассыпалася на часткі[132]. Аднак гэтае няпэўнае становішча працягвалася нядоўга. Ужо прыкладна 10 ліпеня Кох даручыў Бэкеру, які акурат тады прыбыў у Кёнігсбэрг, перавезьці сяброў Рады ў Бэрлін і перадаць іх у распараджэньне ОМі. Астроўскага адшукалі ў Лодзі, і 12 ліпеня ён апынуўся ў Бэрліне[133]. Усе гэтыя абставіны ўказваюць на тое, што дзейнасьць БЦР у Нямеччыне была ўзноўлена на загад ОМі.

Толькі пасьля таго, як Рада пераехала ў Бэрлін, Розэнбэрг прызнаў яе за "выключнае і адзінае прадстаўніцтва беларускага народу"[134]. У новых умовах Розэнбэрг вызначыў для БЦР новую палітычную ролю, таму прызнаньне, на якое ОМі не магло рашыцца зь сьнежня 1943 г., наступіла толькі цяпер. У адрозьненьне ад прадстаўнічых органаў іншых усходніх народаў, Рада была створана ў краі, а не ў эміграцыі і магла спаслацца на мандат другога ўсебеларускага кангрэсу. Адсутнасьць адпаведнага дэкрэту ОМі, які ўва ўмовах акупацыі па сутнасьці рабіў Раду бясправўным органам, цяпер станавілася козырам, маўляў, законнасьць БЦР грунтуецца на волі народу, а не на распараджэньні акупацыйнай улады. Больш за гэта, зараз можна было ахарактарызаваць дзейнасьць Рады ў эміграцыі як вынік будаўніцтва беларускай дзяржавы пад нямецкай акупацыяй, перарваны прыходам Чырвонай Арміі.

20 жніўня, неўзабаве пасьля таго, як Розэнбэрг прызнаў БЦР, Астроўскі абвесьціў пратэст, адрасаваны "ўсім урадам і народам сьвету" ў сувязі з тым, што Беларусь занялі савецкія войскі.

> Гэтыя акты бальшавіцкай Масквы БЦР разглядае як новае гвалтоўнае парушэньне міжнароднага права. Цяперашнюю акупацыю бальшавікамі тэрыторыі Беларусі БЦР разглядае як часовую ваенную акупацыю і мабілізуе ўвесь беларускі народ як у краі, так і за ягонымі межамі да хутчэйшага вызваленьня сваё Бацькаўшчыны[135].

---

[132] Галяк Л. Успаміны. ЗША, 1982. Т. 1. С. 185—188; Т. II, 1983. С. 5—7.

[133] Галяк Л. Т. 2. С. 6; справаздача камісара Менскай гарадзкой акругі ад 27.7.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 102/283.

[134] Нататка *weissruthenische Leitstelle* ОМі для Г. фон Мэндэ ад 9.10.1944. Тамсама, r. 93/1204.

[135] Раніца. 1944. 3 верасьня.

Такім чынам, БЦР і пасьля эвакуацыі не перастала быць інструмэнтам прапаганды, толькі ня Готбэрга, а Розэнбэрга. Гэты пратэст, хаця і адлюстроўваў сапраўдную пазыцыю БЦР, несумненна, нарадзіўся зь ведама і ўхвалы Розэнбэрга, інакш ён папросту ня быў бы апублікаваны.

Рэальныя задачы і паўнамоцтвы Рады на тэрыторыі Нямеччыны былі вызначаны ў інструкцыі ОМі. Яны зводзіліся да гэткіх палажэньняў:

1) Барацьба з бальшавізмам шляхам:

— удзелу ў падрыхтоўцы да стварэньня беларускіх вайсковых фармаваньняў;

— удзелу ў стварэньні партызанскіх групаў за лініяй фронту;

— актыўнай прапагандысцкай дзейнасьці сярод беларускіх работнікаў.

2) Аб'яднаньне ўсіх беларусаў у Саюзе вызваленьня Беларусі (гэты Саюз павінна была стварыць БЦР. — *Ю.Т.*).

3) Культурная, сацыяльная і праўная апека над усімі беларусамі ў Нямеччыне.

4) Моладзевая праца (СБМ, вайсковая дапаможная служба).

5) Жаночая праца[136].

Грамадзкай базай для дзейнасьці БЦР павінна было стаць беларускае насельніцтва, якое апынулася ў Нямеччыне альбо на тэрыторыі Польшчы і Чэхаславаччыны, што заставаліся яшчэ пад нямецкай акупацыяй. Пераважную частку гэтых людзей немцы гвалтоўна вывезьлі зь Беларусі на прымусовую працу, іх агульная колькасьць дасягала 378 тыс. чалавек. Апрача таго, у Нямеччыне знаходзілася некалькі тысяч маладых людзей, якія паступілі ў дапаможную службу Люфтвафэ, а таксама нешматлікая даваенная эміграцыя. Такім чынам, у суме атрымлівалася нешта каля 400 тыс. чалавек, прычым сярод выхадцаў зь Беларусі пэўную частку складалі польскія і расейскія работнікі. У ліпені ў гэтую масу ўлілося некалькі дзясяткаў тысяч уцекачоў[137], так што агульная колькасьць беларусаў у Нямеччыне і на акупаваных землях дасягала 500 тысяч.

Культурнай і сацыяльнай апекай ад імя БЦР павінны былі займацца бэрлінскае Беларускае прадстаўніцтва (Vertrauenstelle) і Камітэт самапомачы. Абедзьве арганізацыі мелі свае аддзелы ў найбуйнейшых беларускіх асяродках. Цяпер і адна і другая былі падпарадкаваны БЦР. Толькі зараз, у Нямеччыне, пад кіраўніцтва Рады быў пераведзены СБМ. Яго штаб зь Менску пераехаў у Тропаў у Судэтах. Дзейнасьць Рады ў гэтых галінах зводзілася толькі да пераказваньня нямецкім уладам сваіх пажаданьняў. Стараньнямі БЦР быў атрыманы дазвол на адкрыцьцё беларускіх школаў пры ўмове, што такое жаданьне выкажуць бацькі ня менш як 20 дзяцей школьнага веку. Некалькі такіх школаў і сапраўды было адчынена[138]. У верасьні 1944 г. пры бэрлінскай арганізацыі "Вінэта" была створана гастрольная тэатральная трупа пад назвай "Жыве Беларусь", якая ў лістападзе—сьнежні дала 46 прадстаўленьняў у розных эміграцыйных беларускіх асяродках[139]. Арганізавана таксама і рэлігійнае жыцьцё. Увосень 1944 г. у Нямеччыне выходзілі тры беларускія пэрыёдыкі — "Раніца" (яе апошні нумар выйшаў 21.3.1945 г.), "Малады Змагар" (для моладзі) і "Беларускі Работнік", а радыёстанцыя ў Гамбургу да сакавіка 1945 г. вяла штодзённыя 15–хвілінныя перадачы на беларускай мове[140].

Аднак самай галоўнай задачай Рады быў удзел у нямецкай абарончай кампаніі. Па сутнасьці, толькі гэтая мэта схіляла немцаў да падтрымкі існаваньня БЦР, яе сяброў і супрацоўнікаў. Астроўскі апынуўся ў цяжкай сытуацыі: з аднаго боку, ён разумеў не-

---

[136] Нататка *weissruthenische Leitstelle* ОМі для Мэндэ ад 9.10.1944...

[137] Vołacič M. The population of Western Byelorussia and its Resettlement in Poland and the USSR // Belorussian Review. Vol. 3. Munich, 1956. P. 17.

[138] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 121; Раніца. 1945. 4 лютага.

[139] Тамсама.

[140] Раніца. 1945. 14 сакавіка.

пазьбежнасьць разгрому Нямеччыны, а з другога — адступаць ад супрацоўніцтва зь немцамі яму не было куды. Апанэнты Астроўскага на Беларусі і ў эміграцыі папракалі яго ў тым, што ў гэты безнадзейны для трэцяга райху пэрыяд ён верна служыў яго інтарэсам, заклікаў беларусаў да канца змагацца з Чырвонай Арміяй і такім чынам падштурхоўваў людзей да дарэмнага кровапраліцьця. У сувязі з гэтымі закідамі варта бліжэй разгледзець вайсковую дзейнасьць БЦР.

У ліпені 1944 г. зь Беларусі былі эвакуаваны шматлікія нацыянальныя паліцыйна–вайсковыя фармаваньні. Яны сканцэнтраваліся на тэрыторыі Ўсходняй Прусіі і Паўночнай Мазовіі[141]. Сярод іх было шмат беларускіх часьцей: рэшткі БКА і яе афіцэрская школа, 13–ты батальён СД, атрады дапаможнай паліцыі і інш. На думку Кушаля, можна было набраць каля 10 тыс. салдат і афіцэраў — гэтага хапіла б на фармаваньне адной беларускай дывізіі[142]. Можна было спадзявацца і на згоду Арльта з Галоўнага ведамства СС. Пра гэта сьведчыць стварэньне іншых разнастайных усходніх часьцей СС, тым больш, што ў кастрычніку Арльт гаварыў, што намераны арганізаваць беларускую брыгаду СС[143].

Выкарыстаньне гэтых магчымасьцяў залежала ў вялікай ступені ад Астроўскага, паколькі ўжо ў ліпені ён гаварыў пра гэта з Арльтам[144]. Аднак прапанову аб стварэньні беларускага легіёну Астроўскі накіраваў не ў Галоўную ўправу СС, а ў штаб генэрала Кёстрынга, камандзіра Вэрмахту па справах ненямецкіх фармаваньняў, дзе ніхто не займаўся гэтым пытаньнем, і таму было мала шанцаў на яго хуткае вырашэньне. Прапанова была зроблена ў сярэдзіне ліпеня, акурат тады, калі Галоўная ўправа СС вырашала лёс войскаў, што эвакуаваліся ў Мазовію[145].

Гэтая ініцыятыва Астроўскага мела паважныя наступствы. З аднаго боку, гэта дазволіла пераканаць чыноўнікаў ОМі, што беларусы стаяць на добрым шляху да стварэньня свайго легіёну, і прапанову БЦР поўнасьцю падтрымалі. Але з другога боку, Галоўная ўправа СС прыняла рашэньне ўлучыць усе беларускія часьці або іх рэшткі, што знаходзіліся ў Мазовіі, у наваствораную 30–ю пяхотную дывізію СС пад камандаваньнем обэр–штурмбанфюрэра Зіглінга. Гэтую дывізію называлі яшчэ расейскай дывізіяй СС № 2[146]. Яе нацыянальны склад быў вельмі пярэсты. Найбольшую частку складалі беларусы, шмат было расейцаў, палякаў, украінцаў і іншых. Пасьля кароткай падрыхтоўкі 23 жніўня 30–ю дывізію накіравалі на Заходні фронт, дзе яна пачала хутка раставаць у выніку дэзэртэрства. Частка ўцекачоў з гэтай дывізіі, пераважна палякаў і беларусаў, восеньню 1944 г. уступіла ў войска генэрала Андэрса[147].

Гэтай гульні Астроўскага ня мог зразумець Кушаль, які імкнуўся да стварэньня беларускай нацыянальнай вайсковай часьці — пра гэта сьведчаць ужо цытаваныя яго ўспаміны. Астроўскі тым часам працягваў сваю лінію і высылаў Кушаля ў штаб Кёстрынга, каб падштурхнуць немцаў і хутчэй дабіцца рашэньня аб фармаваньні беларускага легіёну. Гэтыя стараньні не прыносілі ніякага плёну. Астроўскі рабіў выгляд занепакоенага, зьвяртаўся ў беларускую сэкцыю ОМі, але справа ня зрушылася ні на крок. Нарэшце 11

---

[141] Апрача часткі беларускіх атрадаў, там яшчэ знаходзілася брыгада Камінскага, казацкія, каўкаскія, украінскія і іншыя батальёны, а таксама чальцы дапаможнай паліцыі беларускай, польскай і расейскай нацыянальнасьці. Акула (цытаваная праца, с. 9), лічыць, што іх агульныя сілы перавышалі некалькі дзясяткаў тысяч чалавек.

[142] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 51.

[143] Нататка Арльта аб размове з Крогерам і Бухартам ад 15.10.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т–454, r. 37/1154.

[144] Thorwald. P. 343.

[145] Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 51.

[146] Тамсама.

[147] Акула К. С. 247.

кастрычніка да Кёстрынга напісаў Бройтыгам з ОМі, але і гэта не дапамагло[148]. I толькі 6 лістапада на пасяджэньні БЦР было сказана, што, "як высьветлілася", справа арганізацыі беларускага войска належыць да кампэтэнцыі СС, а не Вэрмахту[149]. Такім чынам, каб разблытаць гэтую справу, спатрэбілася чатыры месяцы.

Аднак зацягваць чаканьне далей было небясьпечна, таму, каб апраўдацца перад уладамі і паказаць, што, апрача лёзунгаў і заклікаў, робіцца нешта яшчэ для барацьбы з бальшавізмам, БЦР у сярэдзіне верасьня арганізавала пад сваёй фірмай т.зв. батальён БКА. Было прынята рашэньне, што, паколькі афіцыйна БКА не была распушчана, ня трэба ствараць яе нанова. Праўда, не было атрымана ніводнай вінтоўкі і ніводнага мундзіра, аднак у бэрлінскай камэндатуры ўдалося здабыць памяшканьне нібыта для параненых салдат БКА, якія вярталіся з шпіталяў. Пад гэты дах сабралося некалькі сотняў салдат і афіцэраў, а таксама іх сямейнікі і іншыя цывільныя асобы, якія прабылі ў гэтым "батальёне" пяць месяцаў — да канца студзеня 1945 г. Для бяздомных уцекачоў гэта быў не найгоршы прытулак. Усё гэта вонкава выглядала як батальён БКА, афіцэрская школа і да т.п., рабілася многа шуму, ОМі па–ранейшаму дабівалася яго легалізацыі, але вынікаў гэта не прынесла ніякіх. Больш рэальнае значэньне мелі атрыманыя ад міністэрства пэўныя грашовыя датацыі пад гэты праект[150].

I толькі ў сярэдзіне сьнежня 1944 г. справа беларускага вайсковага фармаваньня апынулася ў Галоўнай управе СС, тут яе абяцалі вельмі хутка ўладзіць. Аднак менавіта цяпер Астроўскі пачаў "траціць надзею" на атрыманьне гэтага рашэньня, распарадзіўся прыпыніць дзейнасьць вайсковага аддзелу БЦР і нават зьбіраўся распусьціць вучэбны батальён[151]. Прыблізна 10 студзеня БЦР атрымала вуснае паведамленьне, што Галоўнае ведамства СС згаджаецца на стварэньне беларускай брыгады пад назваю *Waffen–SS Grenadier–Brigade "Weissruthenien"*. Афіцыйнае пісьмовае пацьвярджэньне аб гэтым было атрымана 26 студзеня[152]. А на наступны дзень Астроўскі абвясьціў заклік да барацьбы і распарадзіўся падрыхтавацца да вэрбоўкі валянтэраў. У гэты час Чырвоная Армія ўжо прабіла нямецкую абарону на Вісьле і наблізілася да Одэру. У Бэрліне ўзьнялася такая паніка, што і гаворкі быць не магло пра вэрбоўку добраахвотнікаў. Зрэшты, у лютым, пасьля налёту амэрыканскай авіяцыі, перастала працаваць ОМі, а БЦР распачала паступовую эвакуацыю сваіх супрацоўнікаў у заходнюю частку Нямеччыны. Такім чынам, брыгада "Беларусь" засталася толькі папяровым праектам.

Паходжаньне вайсковай адзінкі, якая ў беларускай эміграцыйнай літаратуры атрымала назву дывізіі "Беларусь", было зусім іншае. Яно зьвязана з пазьнейшым лёсам 30–й дывізіі Зіглінга. Пасьля шматлікіх дэзэртэрстваў, а таксама пасьля перадачы пад канец 1944 г. шэрагу яе падразьдзяленьняў у войска Уласава, асабовы склад 30–й дывізіі значна паменшаў. У студзені Зіглінг атрымаў загад папоўніць сваю дывізію шляхам вэрбоўкі беларусаў. У сувязі з гэтым ён зьвязаўся з Астроўскім, і той перадаў яму вучэбны батальён. Так 28 студзеня частка гэтага батальёна, здатная да вайсковай службы, адыйшла да 30–й дывізіі, а сама дывізія зьмяніла назву. З гэтай пары яна ўжо звалася: *30 Waffen–SS Grenadier–Division (Weissruthenische № 1)*[153] — замест ранейшага *Russische № 2*. Пунктам яе фармаваньня стала мясцовасьць Гіршаў, што ў Баварыі. Але камплектаваньне гэтай дывізіі так і не пасьпела скончыцца, і на фронт яна так і не трапіла. 30 красавіка яна апынулася ў амэрыканскім палоне. У гэты час у яе ўваходзілі 3 батальёны

[148] Dallin. P. 620.
[149] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 137.
[150] Тамсама, с. 119 і далей; Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 52.
[151] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 181—182.
[152] Тамсама, с. 182; РамаНоўскі В. С. 197.
[153] Часопіс 30–й дывізіі "За незалежнасьць". 1945. 1 красавіка.

— 1094 чал., зь іх 182 афіцэры і падафіцэры[154].

Такім чынам, шмат фактаў указвае на тое, што, нягледзячы на заклікі і дэклярацыі, Астроўскі па магчымасьці стрымліваў фармаваньне асобнай беларускай вайсковай адзінкі ў Нямеччыне. Прыкладна такую самую тактыку ён абраў і ў справе арганізацыі Саюзу вызваленьня Беларусі. Гэтае пытаньне шмат разоў разглядалася на пасяджэньнях Рады, вяліся дэбаты вакол назвы, статуту і праграмы, ствараліся камісіі для распрацоўкі дэталяў. Усё гэта цягнулася аж да тае пары, пакуль уся справа ня страціла сэнсу перад абліччам непазьбежнай катастрофы, да якой каціласяНямеччына[155].

Стаўленьне Астроўскага да дзейнасьці Ўласава было лягічным працягам ужо апісанай яго тактыкі. Сустрэча Гімлера з Уласавым, плянаваная на ліпень, адбылася толькі 16 верасьня. Было дамоўлена стварыць т.зв. Камітэт вызваленьня народаў Расеі і армію, якая б падпарадкоўвалася гэтаму Камітэту. Галоўная ўправа СС пачало рэалізацыю праекту. 13 кастрычніка ў гэтай установе прайшла канфэрэнцыя з удзелам Арльта, Крогера і Бухарта, было прынята рашэньне аб тым, каб даручыць Астроўскаму ўступіць у Камітэт. На думку кіраўніцтва СС, гэта не павінна было само па сабе перакрэсьліць ідэю незалежнасьці Беларусі[156]. Аднак Астроўскі рашуча адмовіўся ад гэтага праекту. І не дапамаглі тут ні ўшчуваньні Арльта, ні націск Кальтэнбрунэра. Торвальд піша, што ў часе спатканьня з Уласавым у Галоўнай управе бясьпекі райху Астроўскі сказаў яму: “Нашыя шляхі розныя. Вы — за вольную Расею, а я — за вольную Беларусь”[157]. Сваю пазыцыю Астроўскі “вельмі адназначна” пацьвердзіў падчас візыту ў Розэнбэрга — недзе ў апошнія дні кастрычніка[158].

Аднак знайшліся беларусы, украінцы і іншыя, якія пагадзіліся на ўдзел у абвешчаным 14 лістапада ў Празе Камітэце вызваленьня народаў Расеі. У адказ на маніфэст гэтага Камітэту прадстаўнікі дзевяці народаў СССР, у т.л. і БЦР, 18 лістапада выдалі супольную заяву, у якой адмовіліся ад прызнаньня кіраўнічай ролі Ўласава і запатрабавалі, каб ён абмежаваў сваю дзейнасьць справамі этнаграфічнай Расеі[159]. Пачаліся новыя перамовы зь нямецкімі ўладамі, але яны не дапамаглі вырашыць спрэчку паміж “сэпаратыстамі” і камітэтам Уласава. Ды, зрэшты, было ўжо занадта позна гаварыць аб гэтым.

Група афіцэраў і моладзевых дзеячоў крытычна паставілася да паводзін Астроўскага ў справе ўдзелу ў камітэце Ўласава і асудзіла маруднасьць пры арганізацыі асобнага беларускага вайсковага фармаваньня. Гэтыя людзі, што рваліся да безнадзейнай барацьбы, гуртаваліся вакол палітычна–вайсковай арганізацыі — Беларускай незалежніцкай партыі (БНП). Яе кіраўнікі — Усевалад Родзька, Міхаіл Вітушка і іншыя — супрацоўнічалі з Абвэрам, прадстаўлялі БНП як патрыятычную канспірацыйную арганізацыю і выдавалі быццам бы нелегальны “Бюлетэнь БНП”, на старонках якога заклікалі да ўзброенай барацьбы за незалежную Беларусь[160].

---

[154] Кушаль Ф. С. 63 і інш. Тамсама дэталёва апісваецца стварэньне гэтага фармаваньня.

[155] За дзяржаўную незалежнасьць... С. 119 і далей.

[156] Нататка Арльта аб размове з Крогерам і Бухартам ад 15.10.1944...

[157] Thorwald. P. 423.

[158] Ліст Розэнбэрга да Лямэрса ад 3.11.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T–454, r. 29/1171. Пра візыт Астроўскага да Розэнбэрга згадвае “Völkischer Beobachter” (2.10.1944), аднак не падае яго дакладнай даты.

[159] Dallin. P. 637—638.

[160] Зьвесткі аб стварэньні і дзейнасьці БНП вельмі скупыя. Рамаоўскі (Саўдзельнікі... С. 187) піша, што яна была створаная на заданьне Абвэру. Магчыма, так яно і было, калі ўлічыць, што лідэр БНП Родзька зь вясны 1941 г. супрацоўнічаў з Абвэрам і ўдзельнічаў у арганізаванай ім дывэрсійнай апэрацыі на Беларусі напярэдадні нападу Нямеччыны на СССР. Пра сувязь БНП з Абвэрам сьведчаць таксама і некаторыя эміграцыйныя крыніцы. Гл.: Беларускі Голас. 1982. Ліпень. Затое шараговыя сябры БНП былі перакананыя, што маюць дачыненьне да сапраўднай падпольнай арганізацыі.

БНП была створана ў Менску ў ліпені 1942 г., але больш значную дзейнасьць разгарнула толькі ў чэрвені 1944 г., арганізуючы некалькі канспірацыйных выведна–дывэрсійных групаў у тылах Чырвонай Арміі. У ліпені, а найпазьней — у жніўні 1944 г. “Абвэр” арганізаваў у Дальвіцы ўва Ўсходняй Прусіі навучальны цэнтар і рыхтаваў там добраахвотнікаў для дывэрсійнай працы на Беларусі. Палітычным кіраўніком цэнтру быў Родзька[161].

Істотную ролю ў вэрбоўцы добраахвотнікаў адыгрывала прапаганда БНП. Канспірацыйны арэол дазваляў ёй карыстацца такімі прыёмамі, якія былі недапушчальныя ў афіцыйнай прапагандзе, і гэта выклікала да яе большы давер. БНП ня толькі выкарыстоўвала патрыятычную фразэалёгію, але дазваляла сабе і крытыку нямецкай акупацыйнай палітыкі на Беларусі, хоць гэтыя праблемы сталі ўжо справаю мінуўшчыны. Што да прагнозаў на будучыню, дык тут БНП малявала непазьбежны канфлікт паміж саюзнікамі пасьля перамогі над Нямеччынай. Зыходзячы з такіх меркаваньняў, БНП прапагандавала ўзмацненьне ўласных сілаў як вырашальнага фактару для будучыні Беларусі. “Гэтыя сілы, — гаварылася ў “Бюлетэні БНП”, — і перш за ўсё нацыянальнае войска і антысавецкі партызанскі рух, што ахапіў усю краіну, — ужо дзейнічаюць на Беларусі, і трэба далучыцца да іх, каб споўніць свой сьвяты абавязак перад Бацькаўшчынай”[162]. Пад заклікам БНП: “Здабудзем беларускую дзяржаву — альбо згінем у барацьбе за яе!” — шмат беларусаў накіравалася ў Дальвіц, а адтуль — на Беларусь, цешачы сябе ілюзіяй аб ангельска–амэрыканскім нашэсьці на СССР.

Праблема неадкладнага ўдзелу ў баявых апэрацыях летам 1944 г. перарасла ў канфлікт — на гэтым грунце сутыкнуліся палітычныя амбіцыі Астроўскага і Родзькі. У выніку БНП перайшла ў апазыцыю да Астроўскага і БЦР. Лідэры гэтай партыі абвінавачвалі Раду ў няздольнасьці кіраваць незалежніцкім рухам і выкрывалі яе марыянэтачны характар[163]. У канцы 1944 г. гэты канфлікт перарос у адкрытую варожасьць — Астроўскага крытыкавалі за палітычнае згодніцтва, ускладалі на яго адказнасьць за эвакуацыйны хаос, у якім была страчана пераважная частка сілаў БКА, за няздольнасьць арганізаваць беларускае войска ў Нямеччыне, за нежаданьне супрацоўнічаць з Уласавым і г.д. На пачатку 1945 г. Родзька ўвогуле адмовіўся ад супрацоўніцтва з Астроўскім і выказаў шкадаваньне аб тым, што зьвязваўся зь ім у мінулым[164].

Фармальна БНП мела ўсе падставы, каб крытыкаваць Астроўскага, але ніякай разумнай альтэрнатывы яна не сфармулявала. Усе закіды БНП папросту адлюстроўвалі нямецкія абарончыя інтарэсы, якія вымагалі мабілізацыі ўсіх даступных сілаў і сродкаў для ўзброенай барацьбы. Матывы паводзінаў Астроўскага ў Нямеччыне былі прынцыпова іншыя. Яго адносіны да арганізацыі войска, Саюзу вызваленьня Беларусі і камітэту Ўласава сьведчылі аб разуменьні бескарыснасьці і бяссэнсавасьці ўдзелу ў абароне райху. Астроўскі прыклаў усе стараньні да таго, каб запэўніць сабе і БЦР магчымасьць дзейнічаць і пасьля капітуляцыі Нямеччыны. Супрацоўніцтва з Уласавым магло б пасьля вайны ўскладніць і нават зусім перакрэсьліць яго палітычную працу ў эміграцыі. Лідэр БЦР не жадаў адмаўляцца ад такіх шанцаў і таму пад канец 1944 г. узяўся перакройваць статут Рады, падганяючы яго пад новую сытуацыю. Пленум БЦР прыняў гэты статут 14—17 студзеня 1945 г., калі Чырвоная Армія зь берагоў Віслы рушыла ў паход на Бэрлін, а ОМі ўжо не заглыблялася ў гэткія справы[165].

---

161 Раманоўскі В. С. 188—192.

162 Бюлетэнь Беларускай Незалежніцкай Партыі. № 3, 5, бяз даты. Мяркуючы па тэксьце, № 3 выйшаў у жніўні 1944 г., а № 5 — у студзені 1945 г.

163 Бюлетэнь БНП. № 3.

164 Беларускі Голас. 1981. Сакавік.

165 За дзяржаўную незалежнасьць... С. 175.

## Заключэньне

У выніку вайны і акупацыі Беларусь панесла вялікія людзкія страты. Калі беспасярэдне перад нападам Нямеччыны ў ёй налічвалася 9,2 млн. жыхароў (у цяперашніх межах), дык пад канец 1944 г. іх засталося толькі 6,3 млн. Такім чынам, насельніцтва зьменшылася на 2,9 млн., альбо на 32%[1]. Аднак і па сёньняшні дзень гэтыя лічбы дэталёва не ўдакладненыя. Савецкія крыніцы шмат гадоў сцьвярджалі, што нямецкія акупанты зьнішчылі 1408 тыс. цывільных жыхароў Беларусі і 378 тыс. выслалі на прымусовую працу ў Нямеччыну[2]. Адначасова пісалася, што летам 1941 г. адсюль на ўсход, у эвакуацыю, было вывезена 1,5 млн. чалавек і больш за 500 тыс. мабілізавана ў Чырвоную Армію[3]. Акрамя таго, у ліпені 1944 г. у войска было прызвана яшчэ звыш 600 тыс. чалавек[4]. Разам гэта складала 4,4 млн чалавек, альбо на 50% больш за афіцыйна названыя людзкія страты (2,9 млн.), пры гэтым варта ўлічыць, што да канца 1944 г. толькі невялікая частка эвакуаваных у глыб СССР магла вярнуцца на радзіму. Лічбы відавочна не сыходзіліся, і таму колькасьць жыхароў, забітых акупантамі, ацэньвалі пазьней на больш як 750 тыс.[5]. На думку аўтара, гэтая апошняя ацэнка больш адпавядае сапраўднасьці, аднак яна па–ранейшаму завышаная.

Гаспадарка Беларусі таксама панесла вялікія страты. У 1945 г. узровень яе прамысловай вытворчасьці складаў толькі 20% ад даваеннай[6]. У шмат разоў скарацілася і сельскагаспадарчая вытворчасьць, адною з прычын гэтага былі антыпартызанскія карныя акцыі, у выніку якіх было спалена некалькі тысяч вёсак. Летам 1944 г. савецкія ўлады засьпелі на Беларусі толькі 39% ад даваеннага пагалоўя коней, 31% — буйной рагатай жывёлы, 11% — сьвіньняў і 22% — авечак і козаў[7]. Аднак цяжка вызначыць, у якой ступені прычынілася да гэтага нямецкая гаспадарчая эксплюатацыя. Справа ў тым, што самыя вялікія разбурэньні ў беларускай прамысловасьці адбыліся ў выніку эвакуацыі на ўсход машын і абсталяваньня, а таксама — зьнішчэньня партызанамі дробных прадпрыемстваў у правінцыі. У дадатак немцы ўлетку 1944 г. правялі эвакуацыю некаторых заводаў. Не выклікаюць даверу зьвесткі пра выкарыстаньне або вынішчэньне свойскай жывёлы нямецкімі акупантамі — у некаторых выпадках гэтыя лічбы перавышаюць стан даваеннага пагалоўя (сьвіньні, козы і авечкі), і гэта — без уліку вынікаў эвакуацыі на ўсход, задавальненьня патрэбаў партызан і самога мясцовага насельніцтва[8].

Аднак асаблівым аспэктам акупацыйнай гісторыі Беларусі было яе палітычнае становішча. Тут міжволі напрошваецца паралель з пэрыядам першай сусьветнай вайны. Усходняя палітыка кіраўнічых колаў другога і трэцяга райху грунтавалася на розных прынцыпах, а іх стаўленьне да беларускага пытаньня як палітычнага фактару было, па сутнасьці, аднолькавае. У 1918 г. Беларусь была для Бэрліна “нязнанай краінай Эўропы”, а слабы нацыянальны рух і нямецкая палітыка што да Расеі не дазвалялі нямецкаму ўраду прыняць і падтрымаць канцэпцыю беларускай дзяржаўнай незалежнасьці. У міжваенны пэрыяд аўтарытэт Беларусі ў бэрлінскіх палітычных колах зноў–такі ня ўзьняўся — перашкаджала адсутнасьць уласнай нацыянальнай дзяржаўнасьці і аслабленьне ў 30–х г. палітычных, эканамічных і культурных пазыцыяў беларускага руху. Нездарма

[1] БелСЭ. Т. 12. С. 57.

[2] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 180—181.

[3] БелСЭ. Т. 12. С. 160, 163.

[4] Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3. (1933—1945). Минск, 1985. С. 479.

[5] Голас Радзімы. 1986. 27 лістапада.

[6] Народное хозяйство Белорусской ССР. Статистический сборник. Москва, 1957. С. 14.

[7] БелСЭ. Т. 12. С. 315.

[8] Преступления немецко-фашистских захватчиков в Белоруссии. 1941—1944. Минск, 1965. С. 423, 438.

напярэдадні другой акупацыі Розэнбэрг вельмі скептычна ацэньваў шанцы пэрспэктыўнага разьвіцьця Беларусі ў рамках “новага парадку” ў Эўропе. Гэтая яго пазыцыя так і не зьмянілася да канца акупацыі.

Але пры бліжэйшым знаёмстве зь ёй Беларусь выйгравала. Пра гэта сьведчаць падобныя дзеяньні Фалькенгайна і Кубэ — кіраўнікоў мясцовай адміністрацыі ў пэрыяд першай і другой акупацыі. Іх праца мела значныя палітычныя вынікі. Так, Фалькенгайн насуперак пазыцыі Бэрліна пасудзеяў стварэньню і нядоўгаму існаваньню Беларускай Народнай Рэспублікі, якая заклала традыцыю сучаснай беларускай дзяржаўнасьці. Кубэ, у сваю чаргу, — у значна горшых варунках — паспрыяў адраджэньню падаўленых у 30–я г. нацыянальных пачуцьцяў беларусаў і ідэалу іх дзяржаўнай незалежнасьці. Акалічнасьці канфлікту “беларускага гаўляйтэра” з СС сьведчаць аб тым, што яго паводзіны грунтаваліся ня толькі на тактычных разьліках — падзеі адбываліся ў той час, калі параза Нямеччыны не здавалася яшчэ непазьбежнай. Пасьля сьмерці Кубэ яго намесьнік Готбэрг пераняў гэтую палітычную лінію і надаў ёй эфэктнае прапагандысцкае гучаньне.

Вынікі цывільнага праўленьня — гэта паступовая беларусізацыя адміністрацыі, роспуск калгасаў, арганізацыя школьніцтва, СБМ, культурнай і выдавецкай дзейнасьці, беларусізацыя царкоўнага жыцьця і, нарэшце, БНС, Камітэт даверу і БЦР, якія, хоць і не атрымалі да канца акупацыі фармальнага прызнаньня ў Бэрліне як органы нацыянальнага прадстаўніцтва, фактычна ўсё ж такі адыгрывалі гэтую ролю. Ідэю корпусу Самааховы, якую Кубэ ня змог да канца ажыцьцявіць ува ўмовах канфлікту з СС, пазьней рэалізаваў Готбэрг у выглядзе БКА. У акупаваных краінах, якія мелі нацыянальную незалежнасьць, такія вынікі нельга было б палічыць за дасягненьні, але ўва ўмовах Беларусі яны набывалі цалкам іншае значэньне, бо стваралі магчымасьці для ўзмацненьня і распаўсюду нацыянальнай сьвядомасьці, для арганізацыі нацыянальнага грамадзкага жыцьця.

Выкарыстаньне гэтых магчымасьцяў, заблякаваных доўгі час ува Усходняй і Заходняй Беларусі, усе беларускія нацыянальныя палітычныя групы ацэньвалі як гістарычны шанец. Праўда, некаторыя зь іх арыентаваліся на Польшчу і заходніх саюзьнікаў, аднак пры гэтым не адмаўляліся ад актыўнага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці, а ў некаторых выпадках — і ад палітычнага супрацоўніцтва зь мясцовай акупацыйнай адміністрацыяй, бо яно павінна было спрыяць узмацненьню беларускага нацыяналізму. Пры гэтым гістарычны досьвед паказваў, што магчымасьць дамінаваньня Нямеччыны і небясьпека германізацыі беларусам наўрад ці пагражала. Зрэшты, зь цягам часу меншалі страхі перад нямецкім дамінаваньнем, затое расло перакананьне ў немінучым вяртаньні савецкай улады. І тут дасягненьні нацыяналізму павінны былі ўзбагаціць нацыянальную сьвядомасьць, прышчапіць ёй імунітэт супраць русіфікацыі, урэшце, стварыць гістарычныя аргумэнты, якія ўжо нельга будзе абмінуць ува ўмовах савецкай Беларусі.

Цікава, што працэс палітычнай палярызацыі беларускага грамадзтва няспынна ўзмацняўся, нягледзячы на злачынствы акупантаў, непазьбежнасьць паразы Нямеччыны і вяртаньня савецкай улады. Большасьць насельніцтва жыла ў страху і чаканьні, але ўжо на самым пачатку акупацыі побач зь ёю абазначыліся дзьве крайнія плыні — камуністычная і нацыяналістычная, якія разьвіваліся ў вострай ідэалягічнай і ўзброенай барацьбе. Пік гэтага супрацьстаяньня прыйшоўся на апошнюю фазу акупацыі, калі дзясяткі тысяч беларусаў сталі з зброяй у руках па розныя бакі барыкады. Сярод іх, несумненна, было шмат людзей выпадковых, якія трапілі туды пад прымусам, але шмат было і такіх, якіх вяла толькі ўласная рашучасьць і нават фанатызм, які адлюстроўваў разуменьне сэнсу барацьбы.

Цяжка ацаніць іх пазыцыі адназначна. Удзельнікі камуністычнага руху, якія гуртаваліся ў партызанскіх атрадах і савецкім падпольлі, мелі за сабой традыцыі, арганізацыйны грунт і — самае галоўнае — усебаковую падтрымку з–за лініі фронту. Тым часам

нацыяналісты, маючы за сабою горкі досьвед недалёкага мінулага, пры ўсёй непасьлядоўнасьці нямецкай палітыкі (справа Ермачэнкі) і адсутнасьці перад сабою абяцальнай пэрспэктывы паволі адваёўвалі свае пазыцыі. Факт, што ў гэтых неспрыяльных умовах нацыяналізм стаў важным грамадзкім фактарам і відавочнай процівагай для камуністычнага руху, быў, безумоўна, вынікам хуткага авалоданьня нацыянальнай ідэі грамадзтвам, асабліва моладзьдзю. Тую самую зьяву адзначаў у 1918 г. Куршман, аднак на гэты раз яна ўзьнялася да непараўнальна вышэйшага ўзроўню. Асабліва ўражвала нацыянальная актыўнасьць у апошнія месяцы акупацыі. Ксёндз Зянон Ігнатавічус, літоўскі капэлян у Менску, слаба зарыентаваны ў сутнасьці справы, ацэньваў убачанае на Беларусі як прызнаньне яе “поўнай незалежнасьці” і шкадаваў, што Літва не дачакалася такога ад немцаў[9].

Савецкія ўлады рашуча выступілі супраць актывізацыі беларускага нацыяналізму. Шмат фактаў сьведчаць аб тым, што найбольшую небясьпеку яны бачылі не ў стварэньні антыпартызанскіх беларускіх фармаваньняў, а ў пранікненьні пачуцьця нацыянальнай асобнасьці і сэпаратысцкіх тэндэнцыяў у масавую сьвядомасьць. Найбольш інтэнсіўна гэтыя працэсы ішлі на абшары генэральнай акругі Беларусі — тут на грамадзтва ўзьдзейнічалі шматлікія палітычныя сродкі. Таму на гэтай тэрыторыі барацьба з нацыяналізмам была адной з найважнейшых задач партызанскага руху, і вялася яна больш зацята, чым на Украіне ці ў Прыбалтыцы. У часе вайны пра гэта сьведчыла, у прыватнасьці, стаўленьне партызан да беларускага школьніцтва, а пасьля вайны — прыняцьце ў лютым 1945 г. спэцыяльнай рэзалюцыі ЦК КП Беларусі аб перавыхаваньні грамадзтва ў духу савецкага патрыятызму і нянавісьці да нямецкіх акупантаў, якіх не было там ужо некалькі месяцаў[10]. У Польшчы такія захады былі папросту непатрэбныя.

Абнародаваньне адпаведна падабраных злачынных аспэктаў нямецкай акупацыі ў пасьляваенны час сталі аднымі з асноўных аргумэнтаў у барацьбе зь беларускай мовай, культурай, нацыянальнай сьвядомасьцю і, урэшце, — з самімі нацыянальнымі дзяячамі. Усё гэта рабілася дзеля таго, каб адцягнуць грамадзкую ўвагу ад палітыкі русіфікацыі, якая праводзілася пад шырмай зьліцьця ўсіх народаў СССР у адзіную сям’ю. Яна была скіравана на аслабленьне нацыянальнага касьцяка краіны, і дзеля гэтага прымаліся самыя разнастайныя захады: масавыя дэпартацыі беларусаў, расейская калянізацыя, выцясьненьне беларускай мовы з шырокага грамадзкага ўжытку і яе зьвядзеньне да мовы сялянства і вузкіх колаў творчай інтэлігенцыі. Прывядзём некалькі прыкладаў.

Паводле афіцыйных зьвестак, з 1950 да пачатку 60–х г. зь Беларусі “выехала” на ўсход, галоўным чынам у Сібір і Казахстан, каля 900 тыс. чалавек. Так, з 1945 г. туды перасялілася прыкладна звыш мільёна чалавек. У 1970 г., калі насельніцтва БССР яшчэ не дасягнула даваеннага ўзроўню, колькасьць расейцаў на яе тэрыторыі павялічылася да 938 тыс. чалавек і, такім чынам, перавысіла ўдвая даваенны ўзровень. У выніку, доля расейцаў у структуры насельніцтва рэспублікі ўвесь час узрастала і ў 1970 г. дасягнула 10,4%, аднак іх сапраўдная ўдзельная вага была яшчэ большая; трэба ўлічыць, што ў іхніх руках апынуліся ключавыя гаспадарчыя і палітычныя пазыцыі.

Зь першых пасьляваенных гадоў пачалася русіфікацыя вышэйшай школы (па–беларуску выкладаліся толькі некаторыя дысцыпліны на факультэтах беларускай філялёгіі). Натуральна, гэта адбілася на стане сярэдняй і пачатковай адукацыі. Школьнікі, якія марылі працягваць навуку, бачылі, як падае грамадзкае значэньне беларускай мовы, і выяўлялі большую зацікаўленасьць у вывучэньні расейскай мовы. Але і гэты мэханізм быў недастаткова эфэктыўны, таму ў 60—70–х г. пачаўся масавы перавод беларускіх школаў на расейскую мову навучаньня адміністрацыйным шляхам. У выніку поўнасьцю былі зьліквідаваны беларускія школы ў гарадох, а на вёсках яны часьцей за ўсё зас-

[9] Jūra K. Monsinjoras. Brooklyn, 1979. P. 275.

[10] Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях... С. 501.

таваліся беларускімі толькі намінальна, бо па–расейску там выкладалася вельмі многа дысцыплінаў.

Выдавецкая дзейнасьць таксама выяўна адлюстроўвала вынікі такой нацыянальнай палітыкі. За пэрыяд з 1950 па 1985 г. агульны тыраж кніжак, выдадзеных у БССР, павялічыўся з 12,5 млн. да 53,3 млн. экзэмпляраў, пры гэтым доля беларускамоўных выданьняў зьнізілася з 10,7 млн. да 5,0 млн. экзэмпляраў, а іх доля ў агульнай кнігавыдавецкай прадукцыі зьменшылася з 85% да 9%[11].

Русіфікатарская палітыка савецкіх уладаў ёсьць найважнейшым крытэрам для ацэнкі пазыцыі і дзейнасьці беларускіх палітычных колаў і той часткі грамадзтва, якая ўва ўмовах нямецкай акупацыі імкнулася да захаваньня і ўзмацненьня сваёй нацыянальнай ідэнтычнасьці. Досьвед падказваў ім, што даваенныя прынцыпы савецкай нацыянальнай палітыкі ня зьменяцца і пазьней, а пасьляваенная рэчаіснасьць пацьвердзіла гэтыя прагнозы. Таму, з гледзішча нацыянальных інтарэсаў, іх дзеяньні былі апраўданыя, дарма што яны не маглі прывесьці да стварэньня самастойнай беларускай дзяржавы. Гэтыя дзеяньні ўмацоўвалі нацыянальную самасьвядомасьць грамадзтва і стварылі факты, якія сьведчаць, што стаўленьне нямецкай цывільнай адміністрацыі да беларускай справы было лепшае, чым пры савецкай уладзе. Той факт, што ў зьняволенай беларускай сталіцы працавалі толькі беларускія школы, а ў вызваленай — амаль толькі расейскія, дастаткова сымбалічны і не патрабуе камэнтароў. Гэтай ацэнкі не мяняе факт нацысцкага генацыду, бо колькасьць ахвяраў НКВД у саміх толькі Курапатах пад Менскам не саступае памерам эсэсаўскіх злачынстваў падчас усіх карных акцыяў у Беларусі.

**Сьпіс скаротаў**

АК — Армія Краёвая
БІП — Бюро інфармацыі і прапаганды Галоўнага камандаваньня АК
БКА — Беларуская краёвая абарона
БКС — Беларускі камітэт самапомачы
БНА — Беларускае народнае аб'яднаньне
БНК — Беларускі нацыянальны камітэт
БНП — Беларуская незалежніцкая партыя
БНС — Беларуская народная самапомач
БНР — Беларуская Народная Рэспубліка
БНТ — Беларускае навуковае таварыства
БСА — Беларуская самаахова
БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная рэспубліка
БЦР — Беларуская цэнтральная рада
ВКЛ — Вялікае Княства Літоўскае
ГАБ — Генэральная акруга Беларусь
ГГ — Генэральнае губэрнатарства
ГК АК — Галоўнае камандаваньне Арміі Краёвай
ГПО — Генэральны плян "Ост"
КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі
КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі
НДР — Нямецкая дэмакратычная рэспубліка
НСРПН — Нацыянал–сацыялістычная рабочая партыя Нямеччыны
ПБН — Партыя беларускіх нацыяналістаў
РННА — Расейская нацыянальная народная армія
РОА (Русская освободительная армия) — Расейская вызваленчая армія
СБМ — Саюз беларускай моладзі
СД — Служба бясьпекі
СС (Schutzstaffeln) — Ваенізаваныя ахоўныя атрады
УКП(б) — Усесаюзная камуністычная партыя (бальшавікоў)
УКБ — Ударны кадравы батальён
УПА — Украінская паўстанцкая армія
ФРН — Фэдэрацыйная Рэспубліка Нямеччына
ЦА ЦК ПАРП — Цэнтральны архіў Цэнтральнага камітэту Польскай аб'яднанай рабочай партыі
AAN — Архіў новых актаў у Варшаве
AGKBZH — Архіў галоўнай камісіі па расьсьледаваньні гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы
ATW — Амэрыканскі вайсковы трыбунал
HJ — Гітлерюгенд

[11] Народное хозяйство СССР. Статистический ежегодник. Москва, 1966. С. 734; 1986. С. 536.

HSSPF (Höherer SS–und Polizeiführer) — Галоўнакамандуючы СС і паліцыі
HSSPF RM u WR (Höherer SS–und Polizeiführer Russland–Mitte und Weissruthenien) — Галоўнакамандуючы СС і паліцыі Цэнтральнай Расеі і Беларусі
OKH (Oberkommando des Heeres) — Галоўнае камандаваньне сухадольных войскаў
OT — Ваенна–будаўнічая арганізацыя Тота
RFSS (Reichsführer SS) — Райхсфюрэр СС
RKO — Райхскамісарыят Остлянд
RKU — Райхскамісарыят Украіны
RMfdbO (Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete), OMi — Імпэрскае міністэрства ўсходніх земляў
RSHA (Reichssicherheitshauptamt) — Галоўная ўправа бясьпекі райху
SSPF (SS– und Polizeiführer) — Начальнік СС і паліцыі
ZWZ (Związek Walki Zbrojnej) — Зьвяз узброенай барацьбы

*Пераклад зроблены паводле:* Turonek Jerzy. Białoruś pod okupacją niemiecką. Wers: Warszawa—Wrocław, 1989.

# “Кожны чацьверты” і Курапаты

У сьнежні 1943 г. выканавец абавязкаў генэральнага камісара Беларусі СС групэнфюрэр Курт фон Готбэрг абвясьціў стварэньне Беларускай цэнтральнай рады. Неўзабаве ў Менску паявілася партызанская лістоўка пад загалоўкам “Аб зборышчы здраднікаў і аб тым, што налгаў Готбэрг”. Лістоўку атрымаў і сам Готбэрг, які загадаў яе перакласьці на нямецкую мову і выслаць у Бэрлін. Сёньня яна захоўваецца ў фондах т.зв. александрыйскіх мікрафільмаў (шыфр: Т–454, ролік 93).

Зацікаўленьне Готбэрга лістоўкай выклікала пададзеная ў ёй інфармацыя аб тым, што акупанты “забілі, павесілі і спалілі жывымі” звыш 2–х мільёнаў жыхароў Беларусі. Незвычайнасьць гэтай інфармацыі абумовіў ня сам факт нацысцкага генацыду (аб якім Готбэрг як адзін зь яго рэжысэраў ведаў ня горш за партызанаў), але ўпершыню пададзеная колькасьць зьнішчанага насельніцтва. Паколькі ўва ўмовах падпольля партызаны не маглі займацца статыстыкай генацыду, гэтая інфармацыя разглядалася немцамі як сродак партызанскай прапаганды і вывучалася для выпрацоўкі адпаведных мэтадаў прапагандысцкага супрацьдзеяньня.

Аднак пададзеная ў лістоўцы лічба выкарыстоўвалася ня толькі для патрэбаў ваеннай прапаганды, але адыграла значную ролю і пасьля вайны. Усё ж ад часу выданьня лістоўкі да канца акупацыі заставалася прыблізна яшчэ шэсьць месяцаў, таму неўзабаве пасьля вайны колькасьць ахвяр нацысцкага генацыду ў Беларусі была павялічана яшчэ на 10% — да 2,2 мільёна. Менавіта такая лічба была прадстаўлена падчас судовае расправы над гітлераўскімі злачынцамі, якая адбывалася ў студзені 1946 г. перад Ваенным трыбуналам у Менску. Такім чынам было афіцыйна сьцьверджана, што акупанты зьнішчылі 24% даваеннага насельніцтва БССР (9,2 мільёна ў яе сучасных граніцах), інакш кажучы, ахвярай нацысцкага генацыду стаў амаль кожны чацьверты жыхар Беларусі.

Зь цягам часу пытаньнем колькасьці загінулых зацікавіліся дасьледчыкі, аднак іх ацэнкі не пацьвярджалі верагоднасьці дадзеных партызанскіх штабістаў. Апрацоўваючы ў канцы 40–х гадоў матэрыялы для Вялікай савецкай энцыкляпэдыі, яны пісалі аб вялікіх ваенных стратах насельніцтва Беларусі, аднак не акрэсьлівалі іх колькасьці, хаця дадзеныя аб 2,2 мільёнах загінуўшых даўно былі апублікаваны (гл.: Большая сов. энц. Т. IV. Москва. С. 476 і 491). Не пагаджаўся з партызанскімі дадзенымі і прафэсар Якуб Ракаў, які ў 1953 г. ацаніў колькасьць зьнішчаных нацыстамі жыхароў Беларусі “на сотні тысяч” (Белорусская ССР. Очерки экономической географии. Минск, 1953. С. 89). Цікава заўважыць, што нават старшыня Савету міністраў БССР К. Мазураў[1] лічыў партызанскую ацэнку значна перабольшанай. Выступаючы ў лютым 1955 г. на сэсіі Вярхоўнага Савету БССР, ён акрэсьліў лік зьнішчанага акупантамі насельніцтва Беларусі на “каля 1,5 мільёна” (Известия. 1955. 10 ноября). Урэшце справа заблыталася да таго, што аўтары выдадзенай у 1958 г. “Гісторыі Беларускай ССР” палічылі за лепшае абысьці маўчаньнем гэтае пытаньне.

Як бачым, на працягу многіх пасьляваенных гадоў спробы пераацаніць афіцыйныя дадзеныя і назваць больш рэальную ахвяру былі безвыніковымі. Ігнаравалася нават больш памяркоўная ацэнка Мазурава, які неўзабаве пасьля свайго выступу ў Маскве стаў першым сакратаром ЦК КПБ. Паняцьце “кожнага чацьвертага” стала ўсенародным лёзунгам, працягвала функцыянаваць у афіцыйных выступах, мастацкай літара-

[1] Мазураў Кірыла (1914—1989) — савецкі партыйны дзяяч, у 1953—1956 г. старшыня Савету міністраў БССР, у 1956—1965 г. 1–шы сакратар ЦК КПБ. — *А.П.*

туры і публіцыстыцы, на ім выхоўваліся школьнікі і студэнты, прапагандавалася яно не бяз посьпеху і за граніцай. Гэты прапагандысцкі лёзунг з усёй сур’ёзнасьцю паўтарае радыё “Свабода”, нью–ёркскі “Беларус” і іншыя беларускамоўныя часопісы на Захадзе. А некаторыя публіцысты ў мартыралягічным захапленьні лёгкай рукой павялічылі памеры генацыду нават да “кожнага трэцяга” (польская “Крытыка”. 1988. № 27).

Усё ж гэтыя посьпехі афіцыйнай прапаганды не супакоілі дасьледчыкаў і не ліквідавалі разнабою. Трэба было нешта прыдумаць, каб пытаньне нацысцкага генацыду на Беларусі выглядала адназначна і не выклікала сумневаў. Відаць, доўга аб гэтым думалі ў кабінэтах беларускай сталіцы, і ўрэшце ў 1964 г., г.зн. праз дваццаць гадоў пасьля вайны, было знойдзена шчасьлівае рашэньне. Яго прадстаўленьне было даручана Васілю Рамаоўскаму, які спрабаваў палагодзіць прыхільнікаў дагматыкі з прыхільнікамі навукі.

Спасылаючыся на неакрэсьленыя канкрэтна архіўныя матэрыялы, Раманоўскі ўпершыню разьдзяліў ахвяры генацыду на дзьве катэгорыі: мірных жыхароў Беларусі (1409225 чалавек) і савецкіх ваеннапалонных (810091 чалавек) (гл. яго: Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 181). Вэрыфікацыя прыведзеных Раманоўскім дадзеных аб ваеннапалонных немагчымая, паколькі загінуўшыя ваеннапалонныя, як правіла, не былі жыхарамі Беларусі і, хаця загінулі на тэрыторыі Беларусі, іх сьмерць не ўплывала на яе дэмаграфічныя страты. З другога боку, ваеннапалонныя беларускай нацыянальнасьці летам і восеньню 1941 г. адпускаліся дамоў. Вясной 1942 г. немцы зноў іх паклікалі ў лягеры, чаму, аднак, маючы на ўвазе жахлівы лёс сваіх таварышаў, яны не падпарадкаваліся і ўцяклі ў лясы, сталі партызанамі. Праўда, потым гінулі і яны, але гінулі ўжо з зброяй у руках, а не як мірныя жыхары.

Не парушаючы “неабвержную” лічбу 2,2 мільёна, Раманоўскі задаволіў патрабаваньні зацікаўленых органаў, аднак, разьдзяляючы яе на дзьве катэгорыі пацярпелых, парушыў іншую важную догму: 1,4 мільёна зьнішчаных цывільных жыхароў — гэта ўжо не 24% яе даваеннага насельніцтва, а 15%. Такім чынам ён абгрунтаваў фальшывасьць паняцьця “кожны чацьверты”. Можна думаць, што гэтага патрабавала справа верагоднасьці стратаў цывільнага насельніцтва ў гады нямецкай акупацыі і ліквідацыі разнастайных спэкуляцыяў вакол дадзенага пытаньня. На гэта паказвае незвычайна дакладны падлік зьнішчанага насельніцтва да кожнага чалавека ўва ўсіх абласьцях Беларусі. Такім дасягненьнем статыстыкі ня можа пахваліцца ніводная эўрапейская дзяржава.

Аднак, у адрозьненьне ад ваеннапалонных, можам паспрабаваць праверыць верагоднасьць дадзеных Раманоўскага аб колькасьці зьнішчанага нацыстамі цывільнага насельніцтва Беларусі. У першую чаргу адкажам на пытаньне, наколькі зьменшылася за тры гады акупацыі ўсё яе насельніцтва. Вось жа, паводле дадзеных на канец 1944 г. яно складала 6265 тысяч, тады як напярэдадні вайны (чэрвень 1941 г.) — 9200 тысяч. (БелСЭ. Т. XII. С. 57). Такім чынам за гэты час насельніцтва зьменшылася на 2935 тысяч. Прытым трэба ўлічваць і тую акалічнасьць, што ў другім паўгодзьдзі 1944 г., ужо пры савецкай уладзе, але яшчэ ва ўмовах ваенных дзеяньняў, міграцыя цывільнага насельніцтва ў Беларусь і зь Беларусі была нешматлікая і найхутчэй раўнаважылася.

Цяпер паспрабуем разгледзець лёсы 2,9 мільёна жыхароў, якіх ня стала на Беларусі ад чэрвеня 1941 да ліпеня 1944 г., пасьлядоўна абапіраючыся на савецкую дакумэнтацыю:

Эвакуаваныя летам 1941 г. у савецкі тыл — каля 1500 тыс.[2].
Мабілізаваныя ў Чырвоную Армію летам 1941 г. — звыш 500 тыс.[3].
Ахвяры нацысцкага генацыду — 1409 тыс.[4].

---

[2] Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. XII. С. 163.

[3] Тамсама, с. 160.

[4] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 181.

Вывезеныя ў Нямеччыну — 378 тыс.[5].
Мабілізаваныя ў Чырвоную Армію ў ліпені 1944 — звыш 600 тыс.[6].
Выведзеныя праз "Віцебскія вароты" ў савецкі тыл летам 1942 г. — 35 тыс.[7].
Разам — звыш 4422 тыс.

Гэтыя дадзеныя не ахопліваюць усіх стратаў насельніцтва Беларусі. Трэба таксама ўлічыць вязьняў, забітых летам 1941 г. савецкімі ахоўнікамі ў турмах і падчас эвакуацыі, ахвяры савецкіх і польскіх партызанаў, тысячы юнакоў і дзяўчат, якія вясной 1944 г. выехалі на дапаможную ваенную службу ў Нямеччыну, і дзясяткі тысяч людзей, якія падчас наступленьня Чырвонай Арміі летам 1944 г. эвакуаваліся на Захад. Варта ўлічыць і ненаўмысныя страты, якія былі нанесены насельніцтву ў ходзе франтавых дзеяньняў нямецкіх і савецкіх войск летам 1941 і 1944 г., і, урэшце, адмоўны натуральны прырост насельніцтва за час акупацыі. На жаль, даступныя крыніцы не выдзяляюць гэтых катэгорыяў стратаў.

Няцяжка зразумець, што сума ўсіх паасобных катэгорыяў стратаў насельніцтва павінна адпавядаць яго агульнаму зьнішчэньню. У той жа час, як паказваюць толькі што пададзеныя лічбы, колькасьць жыхароў Беларусі, эвакуаваных у савецкі тыл, мабілізаваных у Чырвоную Армію, вывезеных у Нямеччыну, і ахвяр нацысцкага генацыду складае разам звыш 4,4 мільёна, перавышаючы на 50% агульнае зьмяншэньне насельніцтва (2,9 мільёна). У выніку атрымліваецца звычайная недарэчнасьць, якая і прымусіла дасьледчыкаў шукаць фальшывыя элемэнты гэтай "статыстыкі".

Паколькі дадзеныя аб эвакуаваных у савецкі тыл, вывезеных у Нямеччыну і мабілізаваных у Чырвоную Армію абапіраліся на больш верагодныя дакумэнтальныя крыніцы, то такім фальшывым элемэнтам аказалася колькасьць ахвяр нацысцкага генацыду. Таму не выпадкова ў апошні час савецкімі спэцыялістамі была зроблена новая ацэнка ахвяр нацысцкага генацыду — "звыш 750 тысяч", аб чым паведаміла газэта "Голас Радзімы" (1986. 27 лістапада). Можна думаць, што гэтая, зьменшаная амаль напалавіну, у параўнаньні з дадзенымі Раманоўскага, ацэнка бліжэйшая да сапраўднасьці, хаця ўсё яшчэ крыху перабольшаная.

Перагляд колькасьці зьнішчаных нацыстамі цывільных жыхароў Беларусі (з 2,2 мільёна да 750 тысяч) не мяняе злачыннага характару гітлерызму, паколькі маральна неістотна, ці яго ахвярамі была адна тысяча ці сотні тысяч безабаронных, невінаватых людзей. Якая ж тады была прычына перабольшваньня савецкімі ўладамі колькасьці гэтых ахвяр, прычына фікцыі, якая працягвалася цэлыя дзесяцігодзьдзі? Сёньня, калі сталі вядомыя жахлівасьці сталінскага генацыду, адказ на гэтае пытаньне даволі просты. Усё ж паспрабуем яго абгрунтаваць:

Па–першае — згаданая партызанская лістоўка сьведчыць, што колькасьць зьнішчанага нацыстамі насельніцтва была акрэсьлена яшчэ ўва ўмовах акупацыі, а гэта азначае, што яна не была рэзультатам падлікаў Надзвычайнай камісіі па расьследаваньні гітлераўскіх злачынстваў[8], а ўказаньняў, якія партызанскія штабісты атрымалі ад сваіх уладаў, найхутчэй органаў НКВД.

---

[5] Тамсама.

[6] Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов. Т. 3. Минск, 1985. С. 479.

[7] Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мінск, 1959. С. 310.

[8] Надзвычайная камісія па выяўленьні і расьследаваньні злачынстваў нямецка–фашысцкіх захопнікаў і іх суўдзельнікаў і прычыненых імі стратаў грамадзянам, калгасам, грамадзкім арганізацыям, дзяржаўным прадпрыемствам і ўстановам СССР на чале зь Мікалаем Швернікам дзейнічала зь лістапада 1942 г., Беларуская рэспубліканская камісія судзеяньня Надзвычайнай камісіі на чале з Панцеляймонам Панамарэнкам — з пачатку 1944 г. Паводле зьвестак камісіі, у Беларусі нямецкія акупанты зьнішчылі больш за 2,2 млн. грамадзян. — *А.П.*

Па–другое — гэтыя ўказаньні адносіліся і да Надзвычайнай камісіі, аб чым сьведчыць факт, што ў 1946 г. яна магла толькі “ўдакладніць” раней запланаваную лічбу да 2,2 мільёна, штучна павялічваючы ўжо несумненна вядомую прыблізную фактычную колькасьць ахвяр нацысцкага генацыду ў Беларусі прыкладна ў тры разы.

Па–трэцяе — устаноўленая такім чынам лічба павінна была ахапіць ахвяры ня толькі гітлераўскага, але і сталінскага генацыду, што сьведчыць аб імкненьні савецкіх уладаў перакласьці адказнасьць за свае злачынствы на нямецкіх акупантаў.

Сымбалем сталінскага генацыду сталі Курапаты, дзе ў 1937—1941 гадох загінула ад куль энкавэдыстаў звыш 100 тысяч чалавек. Пра гэта сьвет пачуў толькі ў 1988 г., аднак на Беларусі, дзе такіх Курапатаў было нямала, ведалі аб іх даўно і, па магчымасьці, імкнуліся дэмаскаваць злачынствы. Такая магчымасьць узьнікла ў часе нямецкай акупацыі, і менавіта тады зьявіліся першыя ацэнкі колькасьці ахвяр сталінізму, якія ў агульных рысах адпавядалі пазьнейшаму павелічэньню савецкімі ўладамі памераў нацысцкіх злачынстваў. Так, напрыклад, Аўген Калубовіч, выступаючы на другім усебеларускім кангрэсе ў Менску, колькасьць ахвяр сталінізму ацэньваў на 1,8 мільёна (гл.: Другі ўсебеларускі кангрэс. Мюнхэн, 1954. С. 64).

Усё ж для заходняга сьвету гэта была толькі “фашысцкая прапаганда” і “антысаветчына”, накіраваная супраць ваеннага саюзьніка. Сёньня ж гэтая ацэнка пацьвярджаецца менскімі аўтарамі, прычым некаторыя лічаць яе нават занадта памяркоўнай. Так, напрыклад, Васіль Быкаў гаварыў пра “мільёны безыменных людзей Беларусі... панішчаных у гады сталіншчыны — безь віны, бяз права, бязь сьледу ў народнай памяці” (ЛіМ. 1988. 28 кастрычніка). На нашу думку, ацэнка Быкава перабольшаная, а зьвестка, пададзеная Калубовічам, бліжэйшая да сапраўднасьці.

Аднак, на добры лад, сутнасьць справы не ў статыстычнай дакладнасьці і нават ня ў тым, што на рахунку сталіншчыны больш зьнішчаных цывільных жыхароў Беларусі, чым на рахунку нацыстаў. Разглядаючы гэтае пытаньне, А. Варава выказаў погляд, што “генацыд супраць уласнага народу і гітлераўскі фашызм — зьявы, бадай, аднаго парадку” (ЛіМ. 1988. 10 чэрвеня). З пункту гледжаньня растаптанай абодвума таталітарызмамі агульначалавечай маралі, гэта несумненна так. Усё ж такое сьцьвярджэньне не вычэрпвае справы.

> Што такое фізычнае зьнішчэньне чалавека ў параўнаньні з духоўным? — пытае Валянціна Коўтун. — Дзіцячыя гульні... Вось калі ў народзе, панове, зьнішчаецца дух свабоды, цяга да асьветы, калі хітра і настойліва падточваюцца карані айчыны... Вось тады, панове, сапраўды сьмерць! (Коўтун В. Крыж міласэрнасці. Мінск, 1988. С. 95).

У гэтых адносінах не было аналёгіі ў дзеяньнях абодвух таталітарызмаў на Беларусі. Праўда, нацысты зьнішчылі сотні тысяч людзей, але адначасова нямецкая цывільная адміністрацыя зрабіла нямала і для разьвіцьця нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Беларуская мова зноў заняла належнае ёй месца ў адміністрацыі і іншых сфэрах грамадзкага жыцьця. Школы, культурная і выдавецкая дзейнасьць мелі выключна беларускі характар, ушаноўвалася нацыянальная сымболіка, а маладое пакаленьне ў шэрагах Саюзу беларускай моладзі выхоўвалася ў духу пашаны і любові да роднага краю, роднай мовы і культуры.

З другога боку, сталіншчына зрабіла ўсё магчымае для духоўнай кастрацыі беларускага народу і яго русіфікацыі. Беларуская мова была загнана на пэрыфэрыю грамадзкага ўжытку, пасьлядоўна і настойліва прывівалася пагарда да яе, забівалася гістарычная памяць народу і яго нацыянальная сьвядомасьць. Усё гэта атрымала ўмоўную назву лінгвацыду (мовазабойства), які дапаўняў фізычнае зьнішчэньне (генацыд). Такім чынам, поўнае параўнаньне нацызму і сталінізму немагчымае толькі ў катэгорыі генацыду, без уліку нацыянальнай культуры і сьвядомасьці. Сынтэтычным і сымбалічным

паказчыкам у гэтай сфэры можа паслужыць той факт, што ў “зьняволенай” сталіцы Беларусі ўсе школы былі беларускія, а ў “вызваленай” — расейскія.

Выкрыцьцё масавых магіл у Курапатах выклікала ў Беларусі значны грамадзкі рэзананс. 19 чэрвеня 1988 г. адбыўся шматтысячны мітынг у Курапатах, у верасьні быў створаны “Камітэт “58”[9], а 19 кастрычніка рэспубліканскае гісторыка–асьветнае таварыства “Мартыралёг Беларусі”[10]. Асноўныя задачы гэтага грамадзкага руху сканцэнтраваныя на ўстанаўленьні колькасьці і пайменна ўсіх загінуўшых у часе масавых забойстваў і тэрору на тэрыторыі БССР, Віленшчыны, Смаленшчыны і Беласточчыны, высьвятленьні іх арганізатараў і выканаўцаў, вызначэньні месцаў забойстваў і пахаваньня ахвяр, а таксама стварэньні мэмарыялу памяці і помнікаў нявінна забітым людзям.

Але адначасова актывізаваліся і ахоўнікі таямніцы масавых злачынстваў. Ужо ў чэрвені, неўзабаве пасьля выкрыцьця курапацкіх магіл, зьявіліся спробы дыскрэдытаваць грамадзкі рух, імкненьні прыцішыць рэакцыю грамадзтва, паменшыць значэньне злачынстваў сталіншчыны. Нягледзячы на гэтыя намаганьні, панурая слава Курапатаў разышлася па Беларусі, Савецкім Саюзе і сьвеце. На фоне гэтых падзеяў стварэньне “Камітэту “58” і таварыства “Мартыралёг Беларусі” выклікала сярод бюракратычнага апарату рэспублікі гістэрычныя спробы супрацьдзеяньняў. Пад яго дыктоўку 22 кастрычніка ў Беларусі пачалася прэсавая кампанія, вытрыманая ў “лепшых традыцыях” 30–х гадоў. Дзейнасьць “Камітэту “58” была абвешчана правакацыйнай, самазванай, недэмакратычнай і ўвогуле непатрэбнай. Было выказана меркаваньне, што створаная ўладамі рэспублікі Дзяржаўная камісія[11], сама, без удзелу грамадзкага руху, разьбярэцца як мае быць у трагічным мінулым.

Такая пазыцыя кансэрватыўных сілаў на Беларусі мае свае спэцыфічныя прычыны. Пасьлядоўнае выяўленьне злачынстваў спрыяла б умацаваньню і пашырэньню ўсьведамленьня таго, што сталінскі генацыд прынцыпова не адрозьніваўся ад нацысцкага, а ў колькасным вымярэньні нават значна яго перавышаў. Ці можна тады, — думаюць некаторыя, — дазволіць стварэньне велічнага мэмарыяльнага комплексу ў Курапатах, аналягічнага Хатыні? А калі быць пасьлядоўным, то трэба ж было б адказаць і на пытаньне, якое ставяць мільёны людзей: чаму не судзілі энкавэдыстаў, калі судзілі гестапаўцаў? Няўжо адна куля больш справядлівая ад другой?

Усё ж гэта толькі адна прычына, прычым не найважнейшая. Як вядома, сталіншчына — гэта ня толькі генацыд, але і лінгвацыд. Таму не выпадкова, што тыя сілы грамадзтва, якія асуджаюць фізычнае зьнішчэньне народу, адначасова выступаюць і супраць яго духоўнай сьмерці. Адсюль зразумела, чаму прэсавая кампанія абаронцаў антыперабудоўчнай Вандэі супраць “Камітэту “58” спалучалася з нападкамі на актывістаў Беларускага народнага фронту, дзяячоў нефармальных суполак і арганізатараў “Дзядоў” — спрадвечнага Дня памяці, сьвяткаваньне якога 30 кастрычніка ў Менску разганялася сіламі міліцыі.

---

[9] “Камітэт “58” — арганізацыйная група па стварэньні Таварыства памяці ахвяраў сталінізму, створаная прадстаўнікамі беларускай дэмакратычнай інтэлігенцыі ў ліпені 1988 г. пасьля адкрыцьця першых фактаў пра злачынствы ў Курапатах. Назва ўзятая як “напамінак аб адпаведным артыкуле Крымінальнага кодэксу РСФСР, па якім былі несправядліва асуджаныя мільёны людзей ува ўсіх рэспубліках СССР”. Група “Камітэт–58” падрыхтавала праекты статуту і дэклярацыі рэспубліканскага гістарычна–асьветнага таварыства “Мартыралёг Беларусі”. Пасьля стварэньня згаданага таварыства спыніла сваю дзейнасьць. — *А.П.*

[10] Рэспубліканскае гістарычна–асьветнае таварыства “Мартыралёг Беларусі” — добраахвотная грамадзка–асьветная арганізацыя памяці ахвяраў сталінізму, створаная 19 кастрычніка 1988 г. у Менску. Асноўныя мэты арганізацыі — раскрыцьцё масавых рэпрэсіяў у 1920—1950–я г., высьвятленьне колькасьці тых, хто загінуў на Беларусі, у месцах высылкі і зьняволеньня, увекавечаньне іх памяці. — *А.П.*

[11] Урадавая камісія па расьследаваньні Курапацкай справы была створана ў чэрвені 1988 г. — *А.П.*

Аднак, як вядома, паліцэйскія дубінкі і вадамёты — зброя маланадзейная і беспэрспэктыўная. Таму, апроч гэтых сродкаў, была пушчана ў рух новая порцыя старой палітграматы. 22 кастрычніка і ў наступныя дні ўсе рэспубліканскія і абласныя газэты надрукавалі артыкул “Эволюция политического невежества”, у якім інсьпіратары і падпісаныя пад ім асобы імкнуліся пераканаць чытачоў, што беларускае адраджэньне ідэйна зьвязана зь нямецкай акупацыяй. А гэта, паводле іх задумы, павінна кампрамэтаваць сучасны адраджэнскі рух. Што ж, можна толькі павіншаваць ініцыятараў артыкула з высокім палітычным “вежеством”, але і адначасова засумнявацца, ці спасылка на нямецкую нацыянальную палітыку ў Беларусі зможа выклікаць намераную рэакцыю. Занадта добра вядомая сытуацыя роднай мовы і школы ў “зьняволенай” і “вызваленай” сталіцы...

А палітычным спэкулянтам на ахвярах нацысцкіх злачынстваў варта, у абліччы Курапатаў, удумацца ў біблейскую мудрасьць: “Пакуль вымеш трэску з вока бліжняга, вымі бэльку з вока ўласнага”.

**Ад рэдакцыі “Кантакту”**

Першая публікацыя пра Курапаты (ЛіМ. 1988. 3 чэрвеня)[13] змабілізавала Саўку Паўлава і яго калег (гл. папярэднія тэксты) да дзеяньняў, якія павінны былі аслабіць уражаньне аб злачынствах сталіншчыны. Не выпадкова ад ліпеня 1988 г. зноў даволі часта пачалі зьяўляцца ў газэтах артыкулы пра нямецкіх акупантаў і беларускіх “саўдзельнікаў у злачынствах” — своеасаблівая кампазыцыя праўды і хлусьні. Маўляў, глядзіце, “экстрэмісты”, якія ў вас карані, на якой глебе вы вырасьлі... Таму рэдакцыя вырашыла надрукаваць даклад доктара Ю. Туронка “«Кожны чацьверты» і Курапаты”, зроблены аўтарам 14 сьнежня 1988 г. у Варшаўскім клюбе БГКТ. Тэкст друкуецца паводле запісу на магнітафонную стужку.

*Друкуецца паводле:* Кантакт. 1989. № 1.

[12] Маецца на ўвазе знакаміты артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва “Курапаты: дарога сьмерці”. — *А.П.*

# Гёбэльсу на пацеху

Цяжка стала нашым партыйным прапагандыстам, ох, як цяжка! Вось, для прыкладу, гэты нязносны адраджэнскі рух, які ня хоча згадзіцца з партыйнай ісьцінай, што беларусы — гэта чысьцюсенькія расейцы, замест якой кіруецца ілжывым дэвізам Вільгельма Кубэ “Беларусы — не расейцы!” і імкнецца пашырыць у народзе гістарычную сьвядомасьць!.. Калісь такіх адпраўлялі проста ў Курапаты — добрыя часы былі, а сёньня?.. Сёньня, на вялікі жаль, даводзіцца змагацца з гэтымі ерэтыкамі менш бліскучымі спосабамі і пераконваць беларусаў, што ўсё беларускае, калі не выходзіла па–за рамкі этнаграфізму, было злоснай выдумкай і інтрыгай палякаў, немцаў, Ватыкану і, можа, яшчэ кагосьці — на згубу “единой и неделимой матушки России”. А безь яе, вядома, Беларусь была б горкаю сірацінаю.

Ня зьдзейсьнілі гэтай задачы Сямашкі і Мураўёвы, Мясьніковы і Цанавы, хаця стараліся як мага. А ў наш час ня раз падводзілі і свае “разоблачители” нацыянальнага руху. Ну, хаця б Круталевіч, які пакланяўся партыйнай догме аб неіснаваньні БНР, пасьля чаго хітра “прапіхаў” безьліч фактаў, якія гавораць, што яна была зусім дарэчнай дзяржавай, адно толькі — кароткатрывалай.

Сёньня, пры гэтай кашмарнай галоснасьці, на такіх ненадзейных памагатых спадзявацца рызыкоўна. Ды нялепшай аказалася і “Група хуткага адпору” Саўкі Паўлава[1], якая толькі кампрамэтавала партыйнае кіраўніцтва рэспублікі. Таму не выпадкова на нашым гарызонце хутка зазьзяла новая зорка, гэтым разам у асобе Тацяны Бумажковай, якая лёгка і пасьпяхова апярэдзіла ўсіх ранейшых “разоблачителей”. Выключныя здольнасьці і глыбокія веды гэтага чарговага карыфея (“передовой”) навукі прадэманстраваў “Политический собеседник”[2] — труба роднапартыйнай прапаганды, зьмяшчаючы ў сьнежаньскім (1989 г.) выпуску адказ Бумажковай на ліст Язэпа Міхалевіча пад агульным загалоўкам “Карані і карона”.

Галоўнай мэтай гэтай публікацыі была спроба палітычнай дыскрэдытацыі адраджэнскага руху, што, вядома, ня можа ня выклікаць нашага зацікаўленьня. Заўважым ляяльна, што такая мэта ЦК КПБ, “ПС” і аўтараў не выходзіць па–за рамкі палітычнай барацьбы і ў такім пляне ня ёсьць нічым вынятковым. Аднак такая мэта дасягаецца толькі ў двух выпадках: калі палеміст абапіраецца на гістарычную праўду або калі ён сьвядома яе фальсыфікуе, ведаючы, што ніхто ня зможа гэтаму фальшу запярэчыць. Як жа з гэтай дылемай справілася Бумажкова і “ПС”?

Вось жа, “ПС” вуснамі Міхалевіча заяўляе: “У 1919 годзе пры дапамозе кайзэра Вільгельма ён (Антон Луцкевіч. — *Рэд.*) стварыў БНР. Блізкім яго сябрам і аднадумцам быў Радаслаў Астроўскі — прэзыдэнт БНР у часы гітлераўскай акупацыі”. Праўда гэта ці фальш? Падумайце, чытачы, самі: па–першае, у 1919 г. у Нямеччыне ўжо не было ніякага кайзэра, па–другое, БНР паўстала не ў 1919 г., а на пачатку 1918 г. і тагачасны кайзэр, Вільгельм II, ніколі яе не прызнаў. Далей, БНР была створана Радай Усебеларускага зьезду, а не Луцкевічам, і, урэшце, у часе гітлераўскай акупацыі БНР не існавала і таму Астроўскі ня мог быць яе прэзыдэнтам. Цяпер палічыце, спадар рэдактар “ПС”, колькі хлусьні вы выпусьцілі толькі ў гэтых двух цытаваных сказах!

---

[1] Паўлаў Савелі Яфімавіч (нар. 1934) — савецкі партыйны дзяяч, у 1971—1989 г. загадчык аддзелу агітацыі і прапаганды ЦК КПБ. — *А.П.*

[2] Штомесячнік “Политический собеседник” — друкаваны орган ЦК камуністычнай партыі Беларусі, які выдаваўся ў Менску ў 1987—1989 г. — *А.П.*

Але “карона” ўсё ж належыць спадарыні Бумажковай, якая спрабавала дыскрэдытаваць лідэра БНФ Зянона Пазьняка і яго аднадумцаў. Ды як жа тут выказаць сувязь Пазьняка зь пілсудчыкамі ці гітлераўцамі, калі ён увогуле іх ня бачыў, хіба што ў кіно? Вось таму і ўзялася яна за Зянонавага дзеда — дзяяча Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі (БХД) і рэдактара яе органа “Biełaruskaja Krynica”, Янку Пазьняка, які восеньню 1939 г. быў арыштаваны энкавэдыстамі і знайшоў вечны спачынак ці не ў Курапатах.

Бумажкова сьцьвярджае, што ў акупаванай палякамі Заходняй Беларусі БХД “цвела пышным цветом” і падбірала ўсіх, хто ненавідзеў савецкую Беларусь, а заснавальнікам такой злачыннай партыі быў, між іншым, Янка Пазьняк, які ў рэдагаванай ім газэце “Biełaruskaja Krynica” захапляўся гітлерызмам. Адным словам, як можна здагадацца, заслужыў, гад, на Курапаты.

Няма сумневу, што, фармулюючы такія закіды, Бумажкова спадзявалася на неписьменнасьць чытачоў. Дарэчы, мяркуйце самі:

*Па–першае* — БХД аформілася ў маі 1917 г. у Петраградзе, а яе закладчыкамі былі ксяндзы Ф. Абрантовіч і Л. Хвецька, а таксама Б. Эпімах–Шыпіла і іншыя асобы, сярод якіх Янкі Пазьняка не было.

*Па–другое* — не “пышным цветом” квітнела БХД у міжваенны пэрыяд, але пастаянна перасьледавалася польскай дзяржаўнай і касьцельнай адміністрацыяй, якая лічыла яе “збальшавізаванай”, між іншым, за радыкальную аграрную праграму (зямля сялянам бяз выкупу). Таму не выпадкова КПЗБ лічыла БХД патэнцыяльным саюзьнікам, аб чым сьведчаць іхнія перамовы аб стварэньні агульнага Народнага фронту[3]. У 1936 г. БХДператварылася ў Беларускае народнае аб’яднаньне (БНА), якое працягвала супрацоўніцтва з камуністамі на плятформе змаганьня за беларускую школу. Менавіта такую “злачынную” і “антысавецкую” партыю ўзначаліў Янка Пазьняк. Варта дадаць, што супрацоўніцтва з КПЗБ ня ўхвальвала нацыяналістычная групоўка ксяндза Вінцука Гадлеўскага, якая выступіла з БНА.

Урэшце, *па–трэцяе*, — стаўленьне хадэцыі да гітлераўскай Нямеччыны па сутнасьці не адрозьнівалася ад тагачаснага стаўленьня ўраду Савецкага Саюзу. Вось што напярэдадні другой сусьветнай вайны аб гэтым пісала “Chryścjanskaja Dumka” (10.12.1938):

> Апошнімі часамі Нямеччына вельмі цікавіцца Ўсходняй Эўропай — СССР, дзе распаложаны Ўкраіна і Беларусь... ня дзеля таго, што хоча памагчы ўкраінцам і беларусам збудаваць сваю дзяржаву, але дзеля таго, што гэтым спадзяецца разваліць СССР, адчыніць для свайго промыслу вялікі рынак збыту і дабрацца да хлебнага багацьця Ўкраіны ды ляснога багацьця Беларусі <...> Гэта, аднак, ня значыць, што беларусы павінны ўжо цяпер баяцца нямецкіх плянаў і ўжо цяпер зь імі змагацца. Не! Трэба толькі ведаць, што няма нікому бескарыснай помачы і што найкарысьнейшая толькі ўласная сіла.
> Дзеля гэтага ня можна сьлепа захапляцца Гітлерам, ані іншымі дабрадзеямі, бо кожны добры, але сьпярша для сябе, а пасьля для другога.

Як бачым, палемічныя прыёмы Бумажковай абапіраюцца не на праўду, але на звычайную хлусьню, разьлічаную на гістарычную несьвядомасьць нашага грамадзтва. Пры гэтым ня варта згадваць такую “дробязь”, што ўнукі не нясуць адказнасьці за дзеяньні сваіх дзядоў, незалежна ад таго, добрыя ці дрэнныя яны былі.

Клясычным мэтадам прапаганды КПБ, накіраванай супраць беларускага адраджэнскага руху, ёсьць спробы даказаць яго пераемнасьць ідэйнай спадчыны нямецкай акупацыі. Гэтым мэтадам ахвотна паслугоўваецца і Бумажкова, дзякуючы якой мы даведалі-

[3] Перамовы паміж КПЗБ і БХД аб стварэньні агульнага Народнага антыфашысцкага фронту адбываліся ў 1935—1936 г., але завяршыліся безвынікова: БХД небеспадстаўна асьцерагалася бальшавіцкай правакацыі. — *А.П.*

ся, што Міхась Забэйда–Суміцкі, Янка Шутовіч, Ларыса Геніюш і Натальля Арсеньнева былі фашысцкімі лакеямі, нейкім чынам вінаватымі за “кроў і сьмерць, сьлёзы і рабства нашых людзей”. Праўда, Бумажкова не займаецца такімі дробязямі, як доказы злачынстваў гэтых выдатных дзяячоў нашай культуры, хаця такую патрэбу бачыць і робіць, бедная, што ў яе моцы. Так, напрыклад, у выпадку Арсеньневай яна стасуе прыём, падобны да справы Пазьняка: Арсеньнева ў часе акупацыі пісала вершы, а ейны муж, Францішак Кушаль, забіваў і паліў жывымі безабаронных беларускіх сялян! Што, чытачы, цяжка вам паверыць? Ну, тады прачытайце рапарт самога Кушаля, які цытуе Бумажкова:

> ...жыхары вёсак Пяршайскай воласьці Доры, Дубоўцы, Мішаны, Даўгулёўшчына, Лапіцы, Сярэдняе Сяло, Раманаўшчына, Нелюбы, Палубоўцы і Макрычаўшчына жыўцом спаленыя разам з забудаваньнямі вёсак... ніякага сьледзтва не праводзілі, толькі зганялі жыхароў пераважна старых, жанчын і дзяцей у асобныя будынкі, якія пасьля запаляліся. У Дорах жыхары былі сагнаныя ў царкву і разам з царквой спаленыя. Кушэль. Менск.
> Напомню, что злодеяния эти покрывались бело–красно–белым флагом.

Здаецца, Бумажкова вас ужо пераканала... Аднак, чытачы, пачакайце крыху і гляньце на гэтыя кропачкі, купюры ў рэпрадукаваным тэксьце рапарту. Што ж там прапушчана? Магчыма, нейкія малаважныя дробязі? Для задавальненьня вашай цікавасьці прапануецца арыгінальны тэкст Кушаля. Вось ён:

> У другой палове ліпеня месяца г/г нямецкія аддзелы СС праводзілі ачыстку ад партызанаў на тэрыторыі Валожынскага павету. Пры гэтым гэнымі аддзеламі былі жыхары вёсак Пяршайскай воласьці Доры, Дубоўцы, Мішаны, Даўгулёўшчына, Лапіцы, Сярэдняе Сяло, Раманаўшчына, Нелюбы, Палубоўцы і Макрычаўшчына жыўцом спаленыя разам з забудаваньнямі вёсак. Аддзелы СС ніякага сьледзтва не праводзілі, толькі зганялі жыхароў, пераважна старых, жанчын і дзяцей у асобныя будынкі, якія пасьля запаляліся.
> У Дорах жыхары былі сагнаныя ў царкву і разам з царквой спаленыя. Кушэль.
> Менск, 6.VIII.1943

Цяпер ужо без асаблівых досьледаў вы можаце зрабіць самастойны вывад ня толькі аб рапарце Кушаля, але і аб этыцы Бумажковай. Яна ж сьвядома прапусьціла тыя словы Кушаля, якія сьведчаць, што выканаўцамі злачынства былі не беларускія фармаваньні, але нямецкія аддзелы СС, і менавіта яны ніякага сьледзтва не праводзілі. Вядома, і згаданыя Бумажковай бел–чырвона–белыя сьцягі тут ні пры чым — немцы ж мелі свае... Сам жа рапарт быў адрасаваны беларускай Радзе Даверу і *выкрываў* эсэсаўскія злачынствы, падчас якіх загінулі, між іншым, родныя браты Кушаля.

Пасьля гэтага чарговага ашуканства Бумажковай няма асаблівай патрэбы разглядаць іншыя яе адкрыцьці. Аднак варта пракамэнтаваць зьмешчаны ёю “ілюстрацыйны матэрыял”. Вось здымак № 2 з групай беларускіх каталіцкіх сьвятароў, якіх Бумажкова назвала “верными холопами фашистских палачей”. Сярод гэтых “халопаў” мы бачым замучаных гестапацаўцамі ксяндзоў Станіслава Глякоўскага і Вінцэнта Гадлеўскага, а таксама ксяндза Язэпа Германовіча (літаратурная мянушка — Вінцук Адважны), які ў той час знаходзіўся ў далёкай Маньчжурыі, а на здымку названы як “уніяцкі сьвятар з Украіны”. Хопіць? Не зусім. На гэтым здымку бачым яшчэ ксяндза Тамаша Падзяву, якога Бумажкова перарабіла на Татарыновіча. Ну, а пра апошняга “фашысцкага халопа” — замучанага ў савецкім лягеры ксяндза Адама Станкевіча — нават гаварыць непрыстойна.

У гэтых адносінах цікавы таксама здымак № 5, які паказвае групу дзяячоў створана-

га ў лютым 1944 г. у Менску Беларускага культурнага згуртаваньня. На ім з волі Бумажковай знайшоўся прафэсар Вацлаў Іваноўскі, які загінуў на пачатку сьнежня 1943 г. і, відаць, з тамтога сьвету прыбыў на сход БКЗ. Іваноўскім яна назвала кампазытара Міколу Шчаглова–Куліковіча, а Езавітавым — Вячаслава Селях–Качанскага. Урэшце, пад здымкам Адама Бычкоўскага[4] віднеецца подпіс "Прэзыдэнт БЦР Р. Астроўскі"... Хіба ўжо хопіць...

Кажуць, што міністар прапаганды трэцяга райху доктар Гёбэльс так вучыў сваіх супрацоўнікаў: "Хлусіце — хлусьня, паўтораная сто разоў, робіцца праўдай!" Магчыма, гэты гёбэльсаўскі прынцып ухвалілі і нашыя прапагандысты. Усё ж даводзіцца канстатаваць істотную розьніцу паміж першымі і другімі. Людзі Гёбэльса ілгалі інтэлігентна, тады як Бумажкова выстаўляе на сьмех ня толькі сябе, але і апарат ЦК КПБ. Што ж, у змаганьні зь беларускім адраджэнскім рухам ніякая цана ня ёсьць завысокай.

*Друкуецца паводле публікацыі ў:* Кантакт. 1990. № 1(3). Люты.

---

[4] Бычкоўскі Адам (Антон) (1887(?) — ?) — культурна–грамадзкі і рэлігійны сьвецкі дзяяч, адзін з выдаўцоў каталіцкай газэты "Biełarus" у 1910–х гг. — *А.П.*

# Загадка сьмерці Францішка Аляхновіча

Падчас нямецкай акупацыі з рук скрытых забойцаў загінула шмат беларускіх палітычных, культурных і рэлігійных дзячоў. Сярод іх — Францішак Аляхновіч, Вацлаў Іваноўскі, Уладзіслаў Казлоўскі, Юліян Саковіч, Леанід Маракоў, каталіцкія сьвятары Станіслаў Глякоўскі, Вінцэнт Гадлеўскі, Антон Неманцэвіч, праваслаўныя айцы Аляксандар Коўш[1], Іван Аляхновіч і іншыя.

Калі раней, пры савецкай уладзе, бадай, усе ахвяры рэпрэсіяў можна запісаць на рахунак НКВД, то ўва ўмовах нямецкай акупацыі ў гэтых адносінах становішча было далёка неадназначнае. Беларускія нацыяналістычныя дзячы былі сольлю ў вачох ня толькі савецкага і польскага падпольляў, якія імкнуліся аднавіць сваю ўладу ў Беларусі. Яны гінулі таксама ў засьценках СД і нямецкіх канцлягерох, між іншага, у выніку правакацыйных даносаў савецкіх, польскіх і нават беларускіх дзячоў, якія такім чынам, г.зн. нямецкімі рукамі, імкнуліся пазбавіцца ідэйных канкурэнтаў.

Выяўленьне інсьпіратараў і выканаўцаў скрытых забойстваў — справа вельмі складаная, а ў некаторых выпадках — безнадзейная. Напрыклад — акалічнасьці замаху на Іваноўскага, які адбыўся 6 сьнежня 1943 г. у Менску. Сабраны аўтарам вялікі матэрыял (прэса, успаміны, паказаньні сьведкаў) доўгі час не даваў падставы для адназначнай высновы, у сувязі з чым цяжка было аспрэчваць вэрсію Івана Новікава, выказаную ў яго “дакумэнтальнай” аповесьці “Дарогі скрыжаваліся ў Мінску”, аб тым, што ініцыятарам і выканаўцам забойства быў партызан Аляксандар Камінскі. І толькі нечаканая шчасьлівая архіўная знаходка дазволіла ўстанавіць, што ўжо 22 лістапада 1943 г. (г.зн. на два тыдні раней!) начальнік СС і паліцыі Беларусі фон Готбэрг ведаў аб рыхтаваным замаху, які, паводле яго слоў, выканаюць “самыя беларусы”. А гэта сьведчыць аб тым, што згаданы “герой падпольля” быў агентам менскай паліцыі і выконваў яе загады.

Акалічнасьці скрытых забойстваў у часе акупацыі патрабуюць салідных досьледаў, свабодных ад такой ці іншай палітычнай накіраванасьці. На жаль, да гэтай пары нашыя гісторыкі кіраваліся іншым прынцыпам, а менавіта — да множаньня любымі сродкамі шэрагаў “герояў падпольля” і іх “подзьвігаў” у вынішчэньні беларускіх нацыянальных дзячоў. Такім чынам, акрамя Іваноўскага, на рахунак “народных мсьціўцаў” запісваліся Гадлеўскі і Саковіч, зь якіх першы быў зьнішчаны гестапаўцамі, а другі — палякамі на Лідчыне.

Апошнім часам у друку зьявіліся некалькі артыкулаў пра выдатнага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча, ягонае жыцьцё, творчасьць і перапахаваньне на віленскіх Росах[2]. Вядома, закраналася і справа сьмерці Аляхновіча. Цікава заўважыць, што калі Віктар Сянкевіч[3] у амэрыканскім “Беларускім Сьвеце” (1988. № 20) і Хведар Нюнька[4] ў “Чырвонай змене” (1989. 16 жніўня) пісалі, што быў ён забіты савецкім падпольшчыкам, то Лявон Крыніцкі ў сваім артыкуле, апублікаваным у беластоцкай “Ніве” (1990. 14 і 21 студзеня), заўважыў, што Аляхновіч загінуў “ад рукі невядомага тэрарыста ў нявысьветленых абставінах”.

---

[1] Коўш Аляксандар (1890—1943) — беларускі рэлігійны і грамадзкі дзяяч, праваслаўны сьвятар. — *А.П.*

[2] Росы — каталіцкія могілкі ў паўночна–ўсходняй частцы Вільні. На іх пахаваныя многія вядомыя беларускія дзячы. — *А.П.*

[3] Сянкевіч Віктар (нар. 1926) — беларускі гісторык, журналіст, дзяяч беларускай дыяспары ў Гішпаніі, Канадзе і ЗША. — *А.П.*

[4] Нюнька Хведар (нар. 1928) — беларускі грамадзка–культурны дзяяч, з 1989 г. — старшыня Таварыства беларускай культуры Літвы. — *А.П.*

Маючы на ўвазе справу забойства Іваноўскага, нельга ігнараваць гэтыя разыходжаньні. Праўда, Нюнька паўтарыў здаўна распаўсюджаную вэрсію, аднак так, як і ранейшыя аўтары, не прадставіў доказаў гэтай вэрсіі і нават не спаслаўся на такія доказы. З публікацыі гэтага аўтара можна зрабіць вывад, што ўся справа даўно і канчаткова высьветленая, вырашаная і яе перагляд непатрэбны. Аднак выказваньне Крыніцкага інтрыгуе і заахвочвае праверыць верагоднасьць гэтай традыцыйнай вэрсіі забойства Аляхновіча.

Францішак Аляхновіч — выдатны драматург, аўтар кнігі "Ў капцюрох ГПУ" (Вільня, 1937), рэдактар "Беларускага Голасу" ў акупаванай немцамі Вільні, быў забіты 3 сакавіка 1944 г. у Вільні ананімным тэрарыстам стрэлам зь пісталета ў галаву. Аб гэтым забойстве неадкладна паведамілі віленскія, а за імі менскія газэты і бэрлінская "Раніца". У паведамленьнях падкрэсьлівалася, што "гэтае новае подлае забойства чырвонай Масквы яшчэ раз сьведчыць аб тым, што бальшавізм імкнецца фізычна вынішчыць лепшых змагароў за незалежнасьць Беларусі".

Беларускае грамадзтва, якое добра ведала аб тэрарыстычных дзеяньнях савецкіх партызанаў, у тым ліку аб спаленых імі школах, забітых настаўніках ці сялянах, якія выконвалі абавязковыя пастаўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, мела ўсе падставы паверыць паведамленьню кантраляванай немцамі прэсы аб забойстве Аляхновіча маскоўскімі агентамі. Гэта было так несумненна, як несумненна пасьля ночы наступае дзень.

Усё ж гэтыя аксіяматычныя паведамленьні, распаўсюджаныя зараз жа пасьля забойства без папярэдняга сьледзтва, відаць, не задавальнялі дзяячоў Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні, якія, ведаючы складанае становішча ў гэтым горадзе і ваколіцах, імкнуліся атрымаць ад нямецкіх уладаў больш канкрэтную зьвестку аб забойстве Аляхновіча. Па нейкім часе такая зьвестка сапраўды была атрымана, аб чым пазьней паведаміў тагачасны старшыня БНК доктар Баляслаў Грабінскі, як наступнае:

> Пасьля немцы з Гебітскамісарыяту сказалі нам, што забойца быў злоўлены і зьліквідаваны. Гэта быў быццам бы камуніст з тыповым летувіскім прозьвішчам, прысланы з Налібоцкае пушчы на загад Масквы. Ці сапраўды савецкі агент быў злоўлены, ці немцы выдумалі гэтую вэрсію, мы не былі пэўныя (Беларус[5]. 1984. Сакавік).

Гэтая інфармацыя віленскага гебітскамісарыяту па сутнасьці не адрозьнівалася ад ранейшых цьмяных паведамленьняў у газэтах, аднак адзін яе аспэкт заслугоўвае на ўвагу. Вось жа, у той час, калі нямецкая паліцыя ў Вільні не хавала прозьвішчы прыгавораных да расстрэлу крымінальных злачынцаў ці ворагаў акупацыйнага рэжыму, прозьвішча забойцы Аляхновіча, які нібыта быў злоўлены, ніколі не было выяўлена. Проста неверагодна, што немцы сьвядома адмовіліся ад выкарыстаньня гэтага факту ў антысавецкай прапагандзе, які мог бы выдатна падмацаваць пададзеную ў газэтах вэрсію. Такім чынам, сумневы дзяячоў БНК у тым, што агент быў арыштаваны, ідэнтыфікаваны і пакараны, можна лічыць абгрунтаванымі. На гэта паказвае і адсутнасьць адноснай дакумэнтацыі ў архіўных фондах віленскіх паліцэйскіх і цывільных акупацыйных уладаў.

Пасьля вайны справа забойства Аляхновіча не экспанавалася беларускімі савецкімі гісторыкамі і пісьменьнікамі. Затое больш увагі ёй прысьвячалі эміграцыйныя публіцысты, якія, як правіла, паўтаралі нямецкую вэрсію і дапаўнялі яе "новымі акалічнасьцямі". Раман Шарупіч "устанавіў" нават прычыну забойства, якой мелася быць выяўленьне Аляхновічам праўды пра савецкія канцлягеры, прадстаўленай у ягонай кнізе "Ў капцюрох ГПУ" (Беларус. 1973. Сьнежань). Такі погляд выказаў і Віктар Сянкевіч у цытаваным "Бел. сьвеце". "Удакладняліся" інфармацыі і пра "маскоўскага агента". Паводле польска-

---

[5] "Беларус" — газэта, якая з 1950 г. выдаецца ў Нью–Ёрку Беларуска–амэрыканскім задзіночаньнем. — *А.П.*

га пісьменьніка Юзафа Мацкевіча[6], забойца карыстаўся “чыстай беларускай мовай”, што чула жонка Аляхновіча (Mackiewicz J. Nie trzeba głośno mówić. Londyn, 1985. S. 273).

Усе гэтыя весткі ўплывалі на фармаваньне грамадзкай думкі ня толькі на эміграцыі, але і на бацькаўшчыне, аднак бліжэйшы іх аналіз дазваляе выказаць істотныя сумненьні адносна іх праўдзівасьці. Аляхновіч сапраўды баяўся помсты НКВД за сваю кнігу, у сувязі з чым у чэрвені 1940 г., напярэдадні акупацыі Літвы Чырвонай Арміяй, імкнуўся перайсьці на акупаваную немцамі тэрыторыю, аднак безь неабходных дакумэнтаў ня быў прапушчаны нямецкімі пагранічнікамі (Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. С. 33). У выніку, Аляхновіч вярнуўся назад і цэлы год жыў у савецкай Літве, аднак рэпрэсаваны ня быў. Праўда, крыху пазьней, ужо пад нямецкай акупацыяй, ён пісаў, што цэлы год хаваўся і гэта яго выратавала ад арышту[7], аднак цяжка паверыць, што на працягу цэлага году НКВД не змагло схапіць шуканага чалавека. А гэта дазваляе меркаваць, што тады Аляхновічам асабліва не цікавіліся.

Неверагоднае і выказваньне Мацкевіча пра мову забойцы, на што зьвярнула ўвагу Раіса Галяк (Беларуская Думка[8]. 1984. № 29. С. 37). Вось адпаведнае сьведчаньне жонкі Аляхновіча, апублікаванае Грабінскім у цытаваным нумары “Беларуса”:

> У пятніцу, позна вечарам, я адчыніла ўваходныя дзьверы на званок і ўвайшоў чалавек векам каля трыццаткі, у кароткай куртцы. Я думала, што нехта зь беларусаў, бо я знала толькі нямногіх. Дзіўна толькі выдалася мне, што *ён не прамовіў ні слова* (падкр. намі. — *Ю.Т.*), каб прывітацца. Ад дзьвярэй можна было бачыць Францішка за бюркам у малым пакоіку. Чалавек, якога я ўпусьціла, скора падыйшоў да бюрка, выстраліў колькі разоў і хутка выйшаў. Усё гэта трывала некалькі хвілін.

У сьвятле гэтага сьведчаньня выказваньне Мацкевіча пра “чыстую беларускую мову”, якой карыстаўся забойца, можна было б лічыць літаратурнай фікцыяй, калі б не адна акалічнасьць. Вось жа, у 1970 годзе ў эміграцыйным часопісе “Веча” (№ 9. С. 6) Янка Станкевіч, выступаючы пад псэўданімам Давідовіч Гор, выказаў погляд, што Аляхновіча забіў не “маскоўскі агент”, але дзяячы польскага акоўскага падпольля за тое, што рэдагаваны ім “Беларускі Голас” зьмяшчаў сьпісы беларусаў, забітых акоўцамі на Лідчыне. У такім выпадку Мацкевіч, хаця ня раз асуджаў АК за супрацоўніцтва зь немцамі, мог быць зацікаўлены ў дэзынфармацыі.

Выпадае заўважыць, што прадстаўленая Станкевічам вэрсія забойства не пашыралася ў эміграцыйным друку, як беларускім, так і польскім. Магчыма, яна лічылася неверагоднай або ня ўкладвалася ў пажаданую схему. Усё ж гэтая вэрсія заслугоўвае на ўвагу, хаця б з той прычыны, што Янка Станкевіч як дзяяч БНК у Вільні, старшыня падпольнага Беларускага нацыянальна–дэмакратычнага аб’яднаньня[9] і ўдзельнік перамоў з Галоўным камандаваньнем АК добра арыентаваўся ў тагачасных падзеях на Віленшчыне.

---

[6] Мацкевіч Юзаф (1902—1985) — польскі пісьменьнік і публіцыст. Выдаваў у 1939—1940 г. у Вільні “Gazetę Codzienną”, у якой прапагандавалася краёвая ідэя. Пасьля другой сусьветнай вайны эміграваў на Захад. — *А.П.*

[7] Аляхновіч апісаў свае бадзяньні падчас савецкай акупацыі Віленшчыны ў 1940—1941 г. у няскончаных мэмуарах “Цяжкі год”. — *А.П.*

[8] “Беларуская Думка” — грамадзка–палітычны і літаратурна–мастацкі часопіс, які выдаецца з 1960 г. у Нью–Ёрку—Саўт Рывэры (ЗША) Беларускім выдавецкім таварыствам. — *А.П.*

[9] Беларускае нацыянальна–дэмакратычнае аб’яднаньне — нелегальная беларуская нацыянальная арганізацыя, створаная летам 1943 г. у выніку аб’яднаньня Партыі беларускіх нацыяналістаў (пад кіраўніцтвам Я. Станкевіча), Беларускага народнага аб’яднаньня (былой хадэцыі) і некалькіх іншых, больш дробных групаў. Арыентавалася на супрацоўніцтва з польскім падпольлем. Шырокай дзейнасьці разгарнуць ня здолела. — *А.П.*

Акрамя таго, якраз Станкевіч падрыхтоўваў сьпісы ахвяр акоўскага тэрору на Лідчыне, якія друкаваліся ў “Беларускім Голасе” (Галяк Л. Успаміны. ЗША, 1982. Ч. I. С. 176). А гэта значыць, што ён меў блізкае дачыненьне да разгляданай справы.

Выяўленьне злачынстваў Арміі Краёвай у адносінах да беларускага насельніцтва супярэчыла інтарэсам польскага падпольля, у сувязі з чым можна яго разглядаць як матыў забойства. Верагоднасьць вэрсіі Станкевіча падмацоўвае яшчэ і той факт, што выяўленьнем гэтых злачынстваў не былі зацікаўленыя і немцы, якія пастаўлялі зброю некаторым акоўскім фармаваньням, між іншым на Лідчыне, для барацьбы з савецкімі партызанамі. Таму не выпадкова чыноўнікі віленскага гебітскамісарыяту пускалі дзеячам БНК дым у вочы і накіроўвалі іх увагу на ўяўнага бальшавіцкага агента, што, дарэчы, у вялікай меры ім удалося.

Вясной 1944 г. немцы імкнуліся наладзіць палітычную супрацоўніцтва з палякамі ў Вільні і прыцягнуць фармаваньні АК да сумеснай абароны гэтага гораду перад Чырвонай Арміяй. Гэтыя абумоўленьні ўплывалі на мадыфікацыю іхняй прапаганды, у якой экспанаваньне акоўскіх злачынстваў было ўжо непажаданым. Таму неўзабаве “Беларускі Голас” быў вымушаны спыніць публікацыю сьпісаў беларусаў, забітых на Лідчыне. Па гэтай самай прычыне ня быў надрукаваны артыкул Янкі Станкевіча пра становішча ў Лідзкай акрузе, у якім аўтар пісаў пра тысячы ахвяр польскага тэрору. Гэты артыкул захаваўся на эміграцыі і толькі ў 1985 г. быў апублікаваны ў “Летапісе беларускай эміграцыі” (1985. № 28. Жнівень).

На карысьць вэрсіі Станкевіча сьведчыць яшчэ адна акалічнасьць. Калі б забойства Аляхновіча было ўчынена савецкім падпольлем, то можна было б выявіць адпаведную дакумэнтацыю. Тым часам, як устанавіў Васіль Быкаў, у архівах праваахоўных органаў БССР адсутнічаюць зьвесткі пра судзімасьць і лёс Аляхновіча (ЛіМ. 1988. 7 кастрычніка)[10].

Нягледзячы на большую верагоднасьць, вэрсія Станкевіча таксама не зьяўляецца доказам. Аднак, улічваючы прадстаўленыя акалічнасьці, гэтая вэрсія дазваляе засумнявацца ў верагоднасьці выказваньняў тых аўтараў, якія выканаўцам забойства лічаць савецкага агента. Такім чынам, пакуль ня знойдуцца дакумэнтальныя доказы, сьмерць Францішка Аляхновіча будзе заставацца загадкай.

*Друкуецца паводле:* Кантакт. 1990. № 2(4). Ліпень.

[10] Быкаў адначасова сьцьвярджаў пра адсутнасьць зьвестак пра судовасьць і лёс і іншых дзеячоў: Р. Бахта, А. Вазілы, А. Шлюбскага, Ф. Грышкевіча, Д. Васілеўскага, М. Краўцова, З. Курдзіна, А. Луцкевіча, Б. Люгойскага, Я. Мазуркевіча, С. Мурза, У. Самойлы–Сулімы, А. Сідарэнкі, Я. Субача, А. Траецкага, П. Хатулёва і К. Шавеля. Зь цягам часу дакумэнты, датычныя большай часткі гэтых дзеячоў, такі знайшліся. — *А.П.*

# Да генэзы БНП, або Як ствараліся міты

Дасьледчыкам падпольных арганізацыяў вядома, што выяўленьне поўнай карціны іх дзейнасьці наўрад ці магчымае, нават пасьля перамогі дзяржаўнага рэжыму, за які змагаліся падпольшчыкі. Пераканаўчае сьведчаньне таму — бясконцыя спрэчкі гісторыкаў камуністычнага падпольля і партызанскага руху ў Беларусі ў гады II сусьветнай вайны ці рухаў супраціўленьня ў іншых краінах.

Таму можна зразумець тыя цяжкасьці, зь якімі сутыкнуўся Сяргей Ёрш, аўтар кнігі "Вяртаньне БНП", які ня мог выкарыстаць архіўныя матэрыялы органаў дзяржаўнай бясьпекі БССР, недаверліва паставіўся да выказваньняў Л. Цанавы[1] і В. Раманоўскага[2], ня выявіў дакумэнтаў па дзейнасьці БНП у Беларусі, урэшце, не натрапіў на апублікаваныя ўспаміны яе членаў. У выніку, згодна з падзагалоўкам кнігі, аўтар абмежаваўся асобамі, якія, на яго думку, былі дзяячамі БНП, і створанай на эміграцыі дакумэнтацыяй, што папярэдзіў кароткім нарысам гісторыі БНП.

Ня меншыя цяжкасьці ўзьнікаюць і перад рэцэнзэнтам, таму адпаведна наяўнасьці матэрыялу пастараюся абмежавацца адным пытаньнем — заснаваньнем БНП, якое ў гэтай кнізе пададзена даволі асабліва. Сяргей Ёрш спасылаецца на выказваньні беларускіх савецкіх гісторыкаў і некаторых арганізатараў партыі, паводле якіх яна была створана ўлетку 1942 г. у Менску, і адначасова на эміграцыйнага гісторыка Вацлава Пануцэвіча, які лічыў, што БНП заснаваў ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі яшчэ напрыканцы 1939 г. у Вільні, дзе было створана яе галоўнае кіраўніцтва — М. Шкялёнак, С. Грынкевіч (псыхіятар), Ч. Ханяўка і Я. Станкевіч, якое працягвала дзейнічаць у 1940—1941 г. у Варшаве.

Паказваючы дзьве вэрсіі заснаваньня БНП, аўтар фармальна засьцярогся, што і першая і другая могуць адпавядаць сапраўднасьці, аднак рашучую перавагу аддаў вэрсіі Пануцэвіча. На гэта паказвае і біяграма Гадлеўскага, у якой без агаворак сьцьвярджаецца, што менавіта ён быў заснавальнікам БНП (с. 89), і выказваньні аўтара пра тое, што далейшая дзейнасьць партыі пад кіраўніцтвам Усевалада Родзькі ажыцьцяўлялася згодна з указаньнямі Гадлеўскага.

Вэрсію Пануцэвіча аўтар імкнуўся падмацаваць дакумэнтамі, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве РБ (ф. 4, воп. 33А, спр. 524, а. 185) і "гавораць пра існаваньне праграмы партыі ўжо ў 1940 г., а таксама пра тое, што яна была надрукавана ў першым нумары бюлетэню беларускіх эмігрантаў" (13). Згодна з старой звычкай беларускіх дасьледчыкаў, аўтар не падае і не ацэньвае гэтых выяўленых ім дакумэнтаў, ствараючы ў чытачоў уражаньне, што выказваньні Пануцэвіча — гэта ўжо ня вэрсія, а ісьціна, якая вырашае дылему заснаваньня БНП.

Усё ж, здаецца, гэта ня так. У 1993 г. я працаваў у гэтым архіве і на маю просьбу атрымаў усе захаваныя там дакумэнты, якія датычылі ваенных лёсаў Гадлеўскага, аднак сярод іх не было дакумэнтаў аб заснаваньні ім БНП. Нічога мне не вядома і пра "Бюлетэнь беларускіх эмігрантаў" ні з даведнікаў такіх скрупулёзных дасьледчыкаў эміграцыі, як Мікола Панькоў ці Алесь Вініцкі, ні зь сьпісаў выданьняў Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне. Нічога пра яго ня ведалі і тагачасныя дзеячы Беларускага камітэту ў Варшаве, зь якімі ў свой час даводзілася нярэдка сустракацца.

Аднак вернемся да вэрсіі Пануцэвіча і пастараемся высьветліць, што гэты біёграф ведаў

---

[1] Цанава Лаўрэнці (1900—1955) — у канцы 1930 — пачатку 1950–х кіраўнік органаў дзяржаўнай бясьпекі БССР, фармальны аўтар кнігі "Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков" (1951). — *А.П.*

[2] Раманоўскі Васіль (1918—1992) — беларускі дасьледчык гісторыі вайны, аўтар вядомай працы пра беларускую калябарацыю падчас другой сусьветнай вайны "Саўдзельнікі ў злачынствах". — *А.П.*

пра свайго героя, пішучы аб'ёмісты нарыс "Кс. Вінцэсь Гадлеўскі — дзяржаўны муж і правадыр народу", надрукаваны ў 1965 г. у выдаваным ім у Чыкага часопісе "Беларуская Царква" (№ 28) і перадрукаваны ў 1993 г. у менскай "Спадчыне". Вось жа, пасьля цеснага супрацоўніцтва з Гадлеўскім у 1936—1939 г. у Вільні Пануцэвіч сустрэўся зь ім 22 чэрвеня 1942 г. у Баранавічах, аднак не было тады гутаркі пра падпольныя справы. Такім чынам, аўтар нарысу мог карыстацца толькі ўспамінамі супрацоўнікаў свайго героя. Нямала гэтых успамінаў друкавалася да 1965 г. на старонках эміграцыйных пэрыёдыкаў, аднак, апрача палемікі разрозьненых груповак і ўзаемных абвінавачваньняў у прычынах арышту і сьмерці Гадлеўскага, яго роля як заснавальніка і дзяяча партыі БНП у іх ня згадвалася[3].

Адзінай "крыніцай", якой мог карыстацца Пануцэвіч (хоць на яе не спасылаўся), быў ананімны артыкул "Кс. Вінцэнты Гадлеўскі асновапаложнік беларускага рэзыстансу", надрукаваны ў сьнежні 1945 г. у першым нумары газэты "Беларускія Навіны", якая пад рэдакцыяй Лявона Рыдлеўскага выдавалася ў Парыжы. Паводле газэты, Гадлеўскі арыентаваўся не на немцаў, а на заходніх саюзьнікаў, імкнуўся наладзіць зь імі сувязь, стварыць супрацьнямецкі партызанскі рух, дзеля чаго заснаваў БНП, нелегальна перабраўся ў Беларусь і рэвалюцыйным шляхам захапіў кіраўніцтва школьніцтвам, што выкарыстоўваў для арганізацыі "ў многіх мясцовасьцях" закансьпіраваных асяродкаў партыі. Так паўстаў вобраз героя беларускага нацыянальнага руху супраціву, чыстага ад падазрэньняў у супрацоўніцтве зь немцамі. Вобраз, вельмі патрэбны групоўцы Міколы Абрамчыка ў яе палітычнай гульні з акупацыйнымі ўладамі заходніх саюзьнікаў у Нямеччыне.

Варта заўважыць, што на працягу наступных дваццаці гадоў Пануцэвіч ня змог выявіць ніякіх доказаў, якія б абгрунтавалі выказваньні "Беларускіх Навінаў". Таму ў ходзе апрацоўкі свайго нарысу 10 лютага 1965 г. ён зьвярнуўся да эміграцыйных дзеячоў з просьбай даслаць яму зьвесткі пра Гадлеўскага.

> На жаль, — пісаў Пануцэвіч, — у маім распараджэньні маюцца <...> некамплектныя матэрыялы, каб гэтую справу вырашыць. Таму зьвяртаюся з гарачым заклікам да ўсіх, хто ведаў гэтага чалавека, сутыкаўся зь ім, мае матэрыялы аб ім, як фатаграфіі, лісты, зацемкі ці можа аб ім напісаць хоць некалькі слоў, каб быў ласкавы як найхутчэй прыслаць на мой адрыс. <...> У асаблівасьці ў мяне не стае дадзеных да наступных пэрыядаў жыцьця кс. Гадлеўскага. <...>
> 5. Дзейнасьць у Варшаве, Польшчы і Бэрліне ў гадох 1939—1942.
> 6. Дзейнасьць у Менску 1941—42.
> 7. Партыя твораная ім "Беларускі Нацыянальны Фронт" у Вільні, Польшчы. Ягонае дачыненьне да "Беларускай Незалежнай (sic! — *Ю.Т.*) Партыі" ў часе нямецкай акупацыі Беларусі. <...>
> 10. Прычыны арышту і сьмерці.
> Ведама, на ўсе гэтыя пытаньні цяжка адказаць, але будзе вялікім укладам кожнага, хто хоць дакіне маленькую цаглінку дзеля праўдзівага прадстаўленьня гэтага вялікага нашага дзяяча. Усякія зацемкі прашу прыслаць да 15 сакавіка гэтага году[4].

У адказ на свой заклік Пануцэвіч атрымаў допісы Станіслава Грынкевіча (малодшага), Францішка Кушаля, А. Пякарскага, Часлава Ханяўкі, Язэпа Гладкага і А. Цьвікоўскага, якія надыйшлі пазьней жаданага тэрміну і былі апублікаваныя асобна ў 28 і 29 нумарох "Беларускай Царквы". Паказваючы розныя эпізоды дзейнасьці Гадлеўскага, ніхто зь іх не пацьвердзіў яго ролі як заснавальніка і дзяяча БНП. У прыватнасьці, пра такую ролю нічога ня ведаў Ханяўка, якога Пануцэвіч "уключыў" нават у склад кіраўніцтва БНП у Вільні і Варшаве. Зь іншай прычыны не адгукнуўся Янка Станкевіч: ён зай-

[3] Беларуская Думка. 1947. № 2; Адраджэньне. 1948. № 1; Беларус на чужыне. 1949. № 12 (36); Зьніч. 1950—1965. № 1, 21, 70, 82—83; Бацькаўшчына. 1952. № 51—52; Незалежная Беларусь. 1953. № 1 (7), 2 (8).

[4] Летапіс беларускай эміграцыі. 1987. № 51—52.

маўся стварэньнем Партыі (Арганізацыі) беларускіх нацыяналістаў, а не, як пісаў Пануцэвіч, БНП. Гэтага, бадай, дастаткова для ацэнкі вэрсіі Пануцэвіча як прадукту ягонага ўяўленьня, чаго, на жаль, не ўлічыў Сяргей Ёрш.

Створаны на эміграцыі і пашыраны Яршом на бацькаўшчыне міт пра Гадлеўскага як заснавальніка БНП і натхняльніка беларускага супрацьнямецкага руху супраціўленьня несумяшчальны з тагачаснай яго палітычнай пазыцыяй і дзейнасьцю. Прыбыўшы ў чэрвені 1940 г. у акупаваную немцамі Варшаву, ён уключыўся ў дзейнасьць кіраванага Міколам Шчорсам Беларускага камітэту, увайшоў нават у склад яго кіраўніцтва[5]. Адначасова, ня больш чым па традыцыі, выступаў як старшыня Беларускага нацыянальнага фронту — нефармальнай групоўкі, створанай ім яшчэ ў Вільні. Аднак насуперак выказваньню Ярша (13, 89) БНФ ня быў легальнай арганізацыяй (дзейнасьць палітычных груповак прынцыпова забаранялася акупацыйнымі ўладамі) і таму ня мог быць прыкрыцьцём падпольнай супрацьнямецкай дзейнасьці Гадлеўскага. Дарэчы, пакуль што не было і патрэбы такой дзейнасьці, бо яго палітычныя імкненьні свабодна ўкладваліся ў рамкі легальнай дзейнасьці Беларускага камітэту[6].

Кіруючыся ня толькі патрабаваньнямі афіцыйнай палітыкі, але перш за ўсё сваім глыбокім перакананьнем, Гадлеўскі лічыў, што аднаўленьне беларускай дзяржаўнасьці магчымае толькі ў супрацоўніцтве зь Нямеччынай. Гэтую ідэю ён часта прапагандаваў падчас камітэцкіх сходаў, прытым, як сьведчылі прысутныя, лягічна яе абгрунтоўваў. Варта дадаць, што гэтую стратэгічную ідэю Гадлеўскі адлюстраваў у складзеным ім тады “Ідэалягічным Статуце” нефармальнага Беларускага нацыянальнага фронту:

> ... кожны вораг расейскага камунізму ёсьць нашым прыяцелем. Усе тыя дзяржавы, якія імкнуцца да стварэньня вялікай Польшчы або вялікай Расеі коштам Беларусі, ёсьць нашымі натуральнымі ворагамі, зь якімі мы павінны змагацца[7].

Як вядома, гэтымі незацікаўленымі лёсам Беларусі дзяржавамі былі Англія і Злучаныя Штаты Амэрыкі, якія сталі саюзьнікамі Савецкага Саюзу. І не на супрацоўніцтва, а на змаганьне зь імі заклікаў беларусаў Гадлеўскі, вядома, на баку Нямеччыны. Таму згадкі эмігранцкіх публіцыстаў, а за імі і Ярша (14) пра англа–амэрыканскую арыентацыю Гадлеўскага і яго спробы наладзіць сувязь з гэтымі дзяржавамі трэба лічыць выдумкай, якая дыктавалася ўмовамі пасьляваеннай палітычнай каньюнктуры[8]. Восень-

[5] М.Ш. (Мікола Шчорс). Загінуў, каб жыла Беларусь // Беларуская Думка. 1992. № 37.

[6] Вялікім жаданьнем Гадлеўскага было стварэньне беларускага войска, аднак ня ён быў ініцыятарам дывэрсійнай групы, якую С. Ёрш называе “першым штурмовым зьвязам” (90). Такія групы арганізаваў Абвэр і зь літоўскіх і ўкраінскіх ваеннапалонных польскай арміі. Роля Гадлеўскага і іншых дзяячоў варшаўскага Беларускага камітэту абмяжоўвалася вэрбоўкай людзей, якіх накіроўвалі ў асяродкі “Абвэру” па падрыхтоўцы дывэрсантаў.

[7] Арыгінальны экзэмпляр “Ідэалягічнага Статуту БНФ” захоўваецца ў НАРБ (ф. 370, воп. 1, спр. 1258, а. 4—9); іншы асобнік вывезены Леанідам Галяком у ЗША і перадрукаваны кірыліцай у “Летапісе беларускай эміграцыі” (1985. № 24); тамсама інфармацыя, што яго ўкладальнікам быў кс. Гадлеўскі.

[8] Паводле Пануцэвіча, у канцы жніўня 1941 г. Гадлеўскі “выслаў” у Швэцыю свайго эмісара Альбэрта Асоўскага, а ў 1942 г. В. Лукашыка і Я. Федарчука. Асоўскі, прыбыўшы нелегальна праз Нарвэгію ў Стакгольм, наладзіў сувязь зь беларусамі ў Чыкага (між іншым, айцом Язэпам Рэшацем), якім перадаў даручэньне Гадлеўскага арганізаваць Беларуска–амэрыканскую нацыянальную раду, якая павінна была “дзейнічаць перад Вашынгтонам і Альянтамі ў справе Беларусі”. У выніку Рада была заснавана 7 верасьня 1941 г. (Беларуская Царква. 1965. № 28. С. 76—77, 93—94). Аднак Пануцэвіч не ўлічыў, што на ўсю гэтую апэрацыю (ад выезду з Варшавы да заснаваньня Рады) “прызначыў” Асоўскаму ўсяго некалькі дзён, што робіць яго выказваньне па меншай меры несур’ёзным. І яшчэ: у маім архіве захоўваецца ліст а. Язэпа Рэшаця ад 22 мая 1945 г., у якім той піша Васілю Лукашыку, што за гады вайны ніякіх вестак ад беларусаў з Эўропы ён не атрымоўваў.

ню 1941 г. Гадлеўскі прыехаў у Менск, аднак не нелегальна, і не “рэвалюцыйным шляхам” захапіў сваю пасаду, як хацелася б ананімнаму публіцысту “Беларускіх Навінаў”. 17 верасьня генэральны камісар Вільгельм Кубэ прасіў міністра акупаваных усходніх земляў Альфрэда Розэнбэрга прыслаць зь Нямеччыны адпаведнага спэцыяліста да працы ў школьным аддзеле генэральнага камісарыяту, і ў адказ на гэтую просьбу Розэнбэрг прызначыў Гадлеўскага, які з 1 лістапада 1941 г. стаў галоўным школьным інспэктарам[9].

Працуючы ў Менску, Гадлеўскі працягваў вызнаваць сваю палітычную канцэпцыю, пра што сьведчыць, між іншым, распаўсюджваньне ім “Ідэалягічнага Статуту БНФ” з тымі самымі пранямецкімі тэзамі. Нягледзячы на цяжкасьці ваеннага часу і крытычнае стаўленьне да непасьлядоўнай нямецкай палітыкі, ён да часу арышту заставаўся верны сваёй канцэпцыі, на што ўплывалі посьпехі нямецкай арміі, якая ў той час дайшла да Сталінграду і Каўказу. Гэта была важная прычына, дзеля якой ён ня ўдзельнічаў у супрацьнямецкай падпольнай дзейнасьці, пра якую не гаварыў нават сваім davераным супрацоўнікам Язэпу Найдзюку і Анэлі Катковіч[10]. Магчыма таму, што нічога ня ведаў пра такую дзейнасьць.

У ліпені 1942 г. Кубэ паклікаў Яўхіма Скурата ў склад створанай тады ўстановы мужоў даверу і прызначыў яго школьным інспэктарам. Аднак гэта не было вынікам недаверу да Гадлеўскага, які працягваў працаваць у школьным аддзеле, стаў членам Галоўнай рады Беларускай народнай самапомачы, удзельнічаў ува ўсіх яе пасяджэньнях, у арганізацыі курсаў перашкаленьня афіцэраў самаахловы, запрашаўся на сустрэчы з Кубэ, апрача таго, абслугоўваў каталіцкае душпастырства ў Менску.

У той час Гадлеўскі цесна супрацоўнічаў з шэфам БНС Іванам Ермачэнкам — іх яднала спадзяваньне на вырашальную ролю Нямеччыны ў аднаўленьні беларускай дзяржаўнасьці пасьля пераможнай вайны. Не было паміж імі разыходжаньняў і ў вырашэньні складанага канфэсійнага пытаньня, пра якія нярэдка згадвалі эмігранцкія публіцысты. Так, напрыклад, праваслаўны Ермачэнка падтрымаў ініцыятыву Гадлеўскага наладзіць радыётрансьмісіі каталіцкіх набажэнстваў, зь якой ён выступіў 15 кастрычніка на пасяджэньні Галоўнай рады БНС[11]. Таксама Ермачэнка зьвяртаўся да Кубэ з прапановай аформіць кананічнае прызначэньне Гадлеўскага генэральным вікарыем Каталіцкай царквы ў Беларусі, прытым даў наступную яго характарыстыку: “...ксёндз Гадлеўскі ёсьць нам вядомы як сьвядомы беларус, прыхільнік нямецка–беларускага супрацоўніцтва і добры барацьбіт проці палякаў”[12].

І вось раптам загадка: 23 сьнежня 1942 г. раніцай выйшла цэнзураваная аддзелам прэсы генэральнага камісарыяту “Беларуская Газэта” з надрукаваным аб’ёмістым артыкулам Гадлеўскага “25–я ўгодкі скліканьня Ўсебеларускага Кангрэсу”, а таго ж дня ўначы ён быў арыштаваны нямецкай паліцыяй, адпраўлены ў менскую турму і зьнік бязь сьледу. Такім чынам, у той самы час адно нямецкае ведамства лічыла Гадлеўскага “чыстым” (інакш яго артыкул ня быў бы дапушчаны да друку), а другое — ворагам.

Гэты парадокс адлюстроўваў востры канфлікт, які пад канец 1942 г. узьнік паміж галоўнымі дзеячамі акупацыйнага рэжыму ў Беларусі на фоне мэтадаў супрацьпартызанскіх пацыфікацыйных акцыяў. Кубэ абвінавачваў высокіх начальнікаў СС і паліцыі ў масавых забойствах мірнага насельніцтва, за што яны імкнуліся выдаліць яго зь Менску. З такой мэтай пачалася кампанія кампрамэтацыі Кубэ як ініцыятара і натхняльніка

[9] Ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 17.09.1941 // Александрыйскія мікрафільмы, ролік 21/668; Архіў новых актаў у Варшаве; НАРБ, ф. 373, воп. 2, спр. 8, а. 79—80.

[10] Лісты Язэпа Найдзюка да аўтара ад 2.03 і 30.11.1980; інфармацыя Анэлі Катковіч ад 3.01.1981.

[11] Пратакол пасяджэньня Галоўнай рады БНС ад 15.10.1942 // НАРБ, ф. 384, воп. 1, спр. 33А, а. 10—16.

[12] НАРБ, ф. 384, воп. 1, спр. 64, а. 7.

нібыта супярэчлівай з інтарэсамі Нямеччыны палітыкі кіраўніцтва БНС, якое імкнулася стварыць беларускае войска і органы дзяржаўнага кіраваньня[13].

Паводле інфармацыі польскай выведкі, у атмасфэры паліцэйскіх ганеньняў супраць Ермачэнкі і яго супрацоўнікаў тады было арыштавана каля сотні дзяячоў БНС у Менску і ў правінцыі. Сярод іх быў і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, які парадаксальна загінуў як нежаданы саюзьнік.

*Друкуецца паводле:* Беларускі гістарычны агляд. 1999. Сьнежань.
Т. 6. Сш. 1—2 (10—11).

[13] Гл. пра гэта шырэй: Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 510—677 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

# Падзея, невыгодная для ўсіх

У ходзе другой сусьветнай вайны паступова таялі шэрагі нямецкай арміі, зьмяншаліся і яе рэзэрвы. Ужо ў пачатку 1944 г. вярхоўнае камандаваньне Вэрмахту было вымушана стасаваць розныя надзвычайныя мерапрыемствы, каб хоць часткова рэкампэнсаваць людзкія страты войскаў. Адным зь іх быў праект пакліканьня на фронт удзельнікаў проціпаветранай аховы Нямеччыны, функцыі якіх мусілі быць перададзеныя нямецкай моладзі ўва ўзросце ад 15 да 20 гадоў, якая пакуль што не паклікалася ў армію.

Аднак і гэтыя захады былі недастатковыя, таму на пачатку сакавіка 1944 г. у кіраўнічых колах Нямеччыны дасьпела ідэя прыцягнуць да дапаможнай службы ў Люфтвафэ таксама моладзь з акупаваных усходніх земляў — беларускую, латыскую, літоўскую, расейскую, украінскую і эстонскую. У распрацоўцы прынцыпаў арганізацыі і правядзеньня гэтай акцыі бралі ўдзел прадстаўнікі чатырох ведамстваў Нямеччыны — міністэрства акупаваных усходніх земляў, камандаваньня Люфтвафэ, бюро папаўненьня Вафэн СС і арганізацыі моладзі “Гітлерюгенд”. Практычнае правядзеньне акцыі ўскладалася на аддзел моладзі міністэрства акупаваных усходніх земляў і яго кіраўніка гаўптбанфюрэра (маёра) Нікеля.

25 сакавіка 1944 г. прадстаўнікі гэтых ведамстваў заключылі адпаведнае пагадненьне. Паводле нямецкага дасьледчыка гэтага пытаньня Рудольфа Гэрцага, усе яны лічылі, што вэрбоўка моладзі ўсходніх народаў на дапаможную службу ў Люфтвафэ павінна адбывацца на прынцыпах добраахвотнасьці. Пры гэтым не выключалася, што ў Латвіі і Эстоніі, для якіх рыхтаваўся статус аўтаноміі, мясцовыя ўлады змогуць паклікаць моладзь прымусова ў выпадку недастатковай колькасьці добраахвотнікаў. Аднак на практыцы такой неабходнасьці не было.

Арганізатары акцыі імкнуліся элімінаваць нацыянальную дыскрымінацыю паасобных групаў моладзі падчас яе службы ў Нямеччыне і запэўніць ёй аднолькавыя зь нямецкімі памочнікамі Люфтвафэ правы і трактаваньне. Аднак гэтыя імкненьні ня раз выклікалі адмоўнае стаўленьне розных нямецкіх установаў, схільных трактаваць усходніх добраахвотнікаў як прымусова завэрбаваных остарбайтэраў. З гэтай прычыны юнакам беларускай, літоўскай, расейскай і ўкраінскай нацыянальнасьцяў быў прысвоены афіцыйны статус памочнікаў СС, на што наглядна паказвалі адпаведныя нашыўкі на рукавах уніформаў над сваімі нацыянальнымі павязкамі.

Эмблема СС была надзейным шчытом, які зьбярог моладзь ад непажаданых нападкаў з боку расісцкіх чыноўнікаў. Да таго ж, гэтая эмблема мела сваё абгрунтаваньне: згодна з заключаным 25 сакавіка пагадненьнем, 18—20–гадовыя юнакі пасьля 8 месяцаў, а 15—17–гадовыя пасьля 15 месяцаў службы ў Люфтвафэ мусілі перайсьці ў распараджэньне СС для выкананьня паліцэйскай службы ў сваіх краінах.

Такім чынам, юнакі, што паступілі на службу, афіцыйна зваліся памочнікамі СС, а неафіцыйна — дружыньнікамі, хоць выконвалі выключна розныя дапаможныя функцыі, зьвязаныя з проціпаветранай аховай. Пазьней, з жніўня 1944 г., на гэтую службу прыцягваліся і дзяўчаты зь яшчэ кантраляваных немцамі тэрыторыяў. Незалежна ад нацыянальнасьці яны называліся памочніцамі Люфтвафэ.

Паколькі вэрбоўка моладзі адбывалася на прынцыпе добраахвотнасьці, у штабе Нікеля надалі асаблівую ўвагу прапагандысцкай падрыхтоўцы гэтай акцыі. Моладзь мусіла ведаць, што ад яе патрабуецца і што прапануецца. У лістоўках, плякатах і іншых вэрбовачных матэрыялах найперш падкрэсьлівалася яе раўнапраўе і аднолькавае зь нямец-

кай моладзьдзю трактаваньне, а таксама падпарадкаваньне сваім нацыянальным кіраўнікам. Акцэнтаваліся патрыятычныя матывы і задачы, змаганьне з бальшавізмам, пэрспэктывы прафэсійнай адукацыі.

Вэрбоўка ў Беларусі пачалася 27 мая 1944 г. Для яе правядзеньня штаб Нікеля камандзіраваў 70—80 чалавек, у тым ліку 12 афіцэраў Люфтвафэ і 5 афіцэраў СС. Пасьля сустрэчы з генэральным камісарам Готбэргам у Менску яны разьехаліся ў акругі цывільнай зоны Беларусі і ў супрацоўніцтве з акруговымі кіраўнікамі Саюзу беларускай моладзі пачалі сваю працу. Вэрбоўка праводзілася таксама ў Барысаўскай і Бабруйскай акругах ваеннай зоны часткова з удзелам кіраўнікоў Саюзу расейскай моладзі.

На тэрыторыі Беларусі былі арганізаваныя чатыры прыёмныя лягеры для добраахвотнікаў: два ў Менску і па адным у Барысаве і Бабруйску. Тут юнакі праходзілі мэдычны агляд, атрымоўвалі абмундзіраваньне і больш дакладную інфармацыю аб будучай службе. Калі ў міжчасе некаторыя зь іх раздумаліся, то яшчэ мелі магчымасьць з прыёмнага лягеру вярнуцца дадому.

Вэрбоўка ў Беларусі праводзілася ў спэцыфічных умовах. Фронт ужо стаяў над Дняпром з Прыпяцьцю і многае паказвала на хуткі канец нямецкай акупацыі. Акрамя таго, у шматлікіх раёнах дзейнічалі партызанскія злучэньні, а камуністычнае падпольле імкнулася разьбіваць розныя нямецкія ініцыятывы і мерапрыемствы, у тым ліку і арганізаваную дзейнасьць моладзі. У такім становішчы ў выпадку адсутнасьці жаданьня і націскаў вэрбоўшчыкаў маладыя хлопцы мелі надзейную альтэрнатыву — яны маглі схавацца пад апеку партызанаў. З гэтай прычыны нямецкія арганізатары акцыі не чакалі яе вялікага посьпеху ў Беларусі.

Захаваная дакумэнтацыя не дазваляе падрабязна прасачыць ход і вынікі вэрбоўкі ў паасобных акругах Беларусі. Як падавалася ў пасьляэвакуацыйных справаздачах акруговых камісараў, у Глыбоцкай акрузе на службу ў Люфтвафэ паступіла 2000 юнакоў, а ў Баранавіцкай — 500. У іншых акругах вынікі былі сьціплыя. Янка Жамойцін, былы акруговы кіраўнік СБМ у Наваградку, пісаў у сваіх успамінах, што ў яго акрузе вырашыла паступіць на службу ў Люфтвафэ ўсяго чатыры ці пяць юнакоў, аднак не было яму вядома, ці яны выехалі ў Нямеччыну.

Усё ж з той Наваградзкай акругі захаваліся і іншыя сьведчаньні. Годны ўвагі наступны ўспамін Галены Сэлях–Мазуры, апублікаваны ў маі 2002 году ў “Беларускім Дайджэсьце”:

> Увесну 1944 г. у Любчу прыехаў на нямецкім грузавіку прыгожы юнак у чорнай форме школы лётчыкаў, Лёва Русак зь Вераскава; ягоны бацька Пятро Русак, дарэчы, наш сваяк з боку мамы, быў у самаахове. Хлопец і бацька агітавалі моладзь, каб уступаць у вэрмахтаўскія авіяшколы. Рабілі гэта даволі пераканаўча… Мой 14–гадовы брат з захапленьнем угаварваў маму, каб згадзілася пусьціць яго, і ён хутка прыляціць над нашу хату... Мы стаялі на рынку і з жахам глядзелі на сьлёзы жанчынаў, хлопцы якіх ужо былі на машыне. Я трымала брата, каб ня ўцёк да іх. Трохі раней гаварыў зь ім немец Лінаў. “На лётчыка трэба доўга вучыцца, — казаў. — Пакуль вывучышся, вайна кончыцца, і ўжо тады на Любчу не прыляціш”. У канцы канцоў пераканала яго мама: “Ты ў нашай хаце адзіны мужчына. Не пакідай нас, дзьвюх безабаронных жанчын, на няведамы лёс!” Грузавік рушыў. Раптам з натоўпу вырваўся нейкі хлапец. Яго ўцягнулі на скрыню. Гэта быў 15–гадовы Павал Буйвал. Ягоная маці абамлела і звалілася на брук. Што было далей з гэтымі хлопцамі, мне невядома[1].

Паводле справаздачы камандаваньня Вэрмахту ў Беларусі, у чэрвені ў прыёмным лягеры ў Барысаве чакала на выезд у Нямеччыну 150, а ў Бабруйску — 230 юнакоў. Усе яны паходзілі з ваеннай зоны Беларусі.

[1] Беларускі Дайджэст. 2002. № 5.

З мэтай заахвочваньня моладзі вэрбоўшчыкі, напэўна, ня раз ашуквалі яе абяцанкамі, якія ў тагачасных умовах былі нерэальныя. Вось адзін з прыкладаў, які апісаў у газэце "Беларус" (1983. № 303—309) былы вучань Маладэчанскай гандлёва–адміністрацыйнай школы Міхась Лужынскі:

> На пачатку траўня 1944 г. (памылка: відаць, пад канец траўня — вэрбоўка пачалася толькі 27.05.1944 г. — *Ю.Т.*) у школу прыехаў кіраўнік СБМ Сьценьнік зь лейтэнантам паветраных сілаў Фэрманам. Зноў склікалі ўсіх вучняў, гэтым разам хлопцаў, і лейтэнант Фэрман сказаў наступнае: "Сёньня разыгрываецца лёс усяе Эўропы, а таксама вашае Бацькаўшчыны. Беларусы ўжо стварылі сваю армію ў форме Беларускае краёвае абароны. Аднак мадэрная армія ня можа быць эфэктыўнай без свайго лётніцтва. Я заклікаю вас, юнакі,ісьці ахвотнікамі ў паветраныя збройныя сілы. Некаторыя з вас стануць пілётамі, іншыя — навігатарамі або бортмэханікамі". І пайшлі — 46 хлопцаў. Па нейкім тыдні рэкруты выехалі ў Менск, дзе іх абмундзіравалі і ў палове чэрвеня 1944 г. вывезьлі ў Нямеччыну[2].

Нягледзячы на розныя вынікі ў паасобных акругах, што можна лічыць пацьвярджэньнем добраахвотнасьці акцыі, яе агульны вынік перавысіў спадзяваньні нямецкіх арганізатараў. Паводле справаздачы вярхоўнага камандаваньня войск цэнтральнага ўчастку фронту ад 27 жніўня 1944 г., у цывільнай і ваеннай зонах Беларусі на дапаможную службу ў Люфтвафэ паступіла агулам 4000 юнакоў.

Мяркуючы па дадзеных шэфа–праваднiка СБМ Міхася Ганька, апублікаваных 28 чэрвеня 1944 г. у апошнім нумары "Беларускай Газэты", з гэтага ліку каля 3000 хлопцаў паходзіла з цывільнай зоны Беларусі. Аднак многія зь іх да гэтай пары не былі сябрамі СБМ і толькі ў прыёмных лягерох залічваліся ў шэрагі арганізацыі і атрымоўвалі СБМаўскія павязкі. На гэта паказвае, у прыватнасьці, лік добраахвотнікаў з Глыбоцкай акругі, які ў некалькі разоў перавышаў колькасьць юнакоў, якія вясной 1944 г. былі сябрамі акруговай арганізацыі СБМ.

Такім чынам, нельга лічыць абгрунтаванымі выказваньні некаторых беларускіх аўтараў, якія імкнуліся вінаваціць СБМ у посьпеху гэтай акцыі. Тое ж датычыць ролі Саюзу расейскай моладзі ў ваеннай зоне Беларусі, які быў створаны толькі на пачатку мая 1944 г. і, на добры лад, ня мог мець істотнага ўплыву на ідэйнае выхаваньне і рашэньні ўсходнебеларускіх хлопцаў.

Аднак ня ўсе юнакі, якія прыбылі ў прыёмныя лягеры, маглі быць адпраўленыя ў Нямеччыну. Тыя, якія не дасягнулі 15–гадовага ўзросту ці не прайшлі праз мэдыцынскія камісіі, адсылаліся дадому. Некаторыя, адумаўшыся, вярталіся самі. Акрамя таго, імклівае наступленьне Чырвонай Арміі ў канцы чэрвеня паралізавала транспарт, у выніку чаго некаторая частка юнакоў у барысаўскім і бабруйскім лягерох засталася на месцы або загінула ў ходзе ваенных апэрацыяў.

Большасьць беларускіх юнакоў была адпраўлена ў Нямеччыну трыма транспартамі — 7, 17 і 22 чэрвеня, зь якіх апошні пасьпеў адысьці за дзень перад наступам Чырвонай Арміі. У ліпені і жніўні, ужо пасьля эвакуацыі зь Беларусі, вэрбоўка працягвалася ў Нямеччыне і генэральным губэрнатарстве (Польшчы) сярод тамтэйшых беларускіх хлопцаў і дзяўчат.

Паводле справаздачы штабу гаўптбанфюрэра Нікеля, на 20 верасьня 1944 г. у шэрагах проціпаветранай аховы Нямеччыны ўдзельнічала агулам 18 917 юнакоў з краінаў Усходняй Эўропы, у тым ліку: 2356 беларусаў, 3614 латышоў, 1012 літоўцаў, 1363 расейцаў, 5933 украінцаў, 3000 эстонцаў.

Пераважная іх частка (88%) абслугоўвала зэнітную артылерыю, астатнія працавалі ў галіне сыгналізацыі і іншых сфэрах проціпаветранай аховы. У дапаможную службу

[2] Беларус. 1983. № 303—309.

Люфтвафэ ўключылася таксама 2500 дзяўчат, у тым ліку каля 200 беларусак. Агульная колькасьць юнакоў і юначак з усходнеэўрапейскіх краін, якія ўдзельнічалі ў проціпаветранай ахове Нямеччыны, перавысіла 21000.

Такі колькасны вынік сьведчыў аб несумненным посьпеху арганізатараў і гэта ў час, калі нямецкая армія цярпела паразу за паразай і адступала на ўсіх франтах. Найважнейшым, аднак, было стаўленьне да гэтай акцыі саміх хлопцаў і дзяўчат, а ў значнай ступені і іх бацькоў, якія наўрад ці сумняваліся ў выніку вайны і не маглі спадзявацца на вяртаньне на занятую бальшавікамі радзіму.

Прычыны ўдзелу моладзі ў абароне нямецкага неба, напэўна, былі розныя. Для адных гэта была бясплатная пуцёўка ў Эўропу, прыгодніцтва ці шуканьне занятку або лепшай долі пасьля вайны. Аднак большасьць кіравалася пачуцьцём патрыятызму і неўспрыманьнем бальшавізму. Таму нельга лічыць як абумоўленую патрабаваньнем тагачаснай прапаганды наступную размову карэспандэнта бэрлінскай "Раніцы" Я. Ігаровіча зь беларускімі дружыньнікамі, якая адбылася 8 ліпеня 1944 г. у судэцкім горадзе Тропаў падчас іх урачыстай перадачы камандаваньню нямецкага Люфтвафэ:

> У канцы, — піша карэспандэнт, — кідаю пытаньне: ці не старалася вас адвесьці ад пастановы пайсьці добраахвотна на ваенную службу варожая прапаганда?
> — Ясна, не абышлося бяз гэтага. Але мы ведалі сваю дарогу і павіннасьці.
> — А ці гаварылі вам часам, што Нямеччына зь Беларусі намагаецца зрабіць сваю калёнію?
> — На гэта — станоўкі адказ: лепш тады нямецкая калёнія, чымся савецкі рай[3].

Пасьля вайны саюзьніцкія пракуроры ў Нюрнбэргу вінавацілі арганізатараў дэпартацыі зь Беларусі ў Нямеччыну малалетніх бяздомных дзяцей і прымусовага вэрбаваньня моладзі на працу ў нямецкай прамысловасьці. Тады была выяўлена й поўная дакумэнтацыя, якая датычыла вэрбоўкі моладзі на службу ў Люфтвафэ, аднак суд ня здолеў даказаць яе прымусовага, а тым самым злачыннага, характару, у сувязі з чым яе арганізатары да адказнасьці не прыцягваліся.

Усё ж эпапэя ваенна–дапаможнай службы моладзі стала пасьля вайны сарамлівай тэмай і на Ўсходзе, і на Захадзе. Добраахвотны характар службы ніяк ня ўкладваўся ў абавязковую для беларускіх гісторыкаў і публіцыстаў тэзу аб адзінадушнай барацьбе беларускага народу зь нямецкім фашызмам, аб генацыдзе і падобных жудасьцях. Такое стаўленьне да гісторыі няшмат зьмянілася і ў апошні час, і ацэнка ваенна–дапаможнай службы моладзі звычайна кідаецца ў адзін мяшок з злачыннымі дэпартацыямі дзяцей і остарбайтараў.

На Захадзе, дзе пасьля вайны апынулася пераважная частка беларускіх памочнікаў Люфтвафэ, таксама панавала маўчаньне, хоць яго прычыны былі іншыя, чым у Беларусі. Наколькі аўтару вядома, ніводзін з дружыньнікаў не наважыўся надрукаваць свае ўспаміны аб вэрбоўцы ў Беларусі, службе ў Нямеччыне й пасьляваенных лёсах юнакоў і юначак. Здаецца, адзіным нясьмелым выняткам быў цытаваны ўспамін Лужынскага пра вэрбаваньне ў Маладэчанскай школе і згадка Янкі Запрудніка пра яго паступленьне на ваенна–дапаможную службу[4].

Такая пазыцыя былых дружыньнікаў нібыта зразумелая: у новых умовах пад скіпэтрам пераможных саюзьнікаў ніхто зь іх не хацеў пісаць аб сваім удзеле ў службе Люфтвафэ. Для іх гэтая падзея была невыгоднай — так, як і для гісторыкаў на Бацькаўшчыне. І тым і другім больш адпавядалі прыгожыя міты, чым гістарычная праўда.

---

[3] Раніца. 1944. 23 ліпеня.

[4] Запруднік Я. Дванаццатка. Нью–Ёрк, 2002. С. 20—21.

## Найважнейшая літаратура:

Жамойцін Я. Зь перажытага // Лёс аднаго пакалення. Беласток, 1996.
Зелений З. Українське юнацтво в вирі Другої світової війни. Торонто, 1965.
Каваленя А. Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі 1941—1944. Мінск, 1999.
Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Менск, 1993.
Herzog R. Besatzungsverwaltung in den besetzten Ostgebieten — Abteilung Jugend. Tübingen, 1966.

*Друкуецца паводле:* Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.
№ 26. New–York—Miensk, 2003.

# Саюз беларускай моладзі ў Нямеччыне

Летам 1941 г. у бэрлінскім міністэрстве акупаваных усходніх земляў (Ostministerium, OMi) праектавалася стварэньне аддзелу моладзі для распрацоўкі канцэпцыі моладзевай палітыкі на ўсходзе. Аднак з увагі на спадзяваную хуткую перамогу ў вайне з СССР гэтае пытаньне не лічылася асабліва важным і тэрміновым, бо толькі ў сьнежні 1941 г. міністар Альфрэд Розэнбэрг прызначыў арганізатара і кіраўніка адпаведнага аддзелу. Ім стаў гаўптбанфюрэр Зыгфрыд Нікель — дасьведчаны дзяяч нямецкай арганізацыі моладзі "Гітлерюгенд", які ў даваенныя гады займаўся кантактамі з замежнымі згуртаваньнямі моладзі[1]. Адначасова Нікель быў сувязным паміж Дзяржаўным кіраўніцтвам моладзі і OMi.

Паводле Рудольфа Гэрцага, у той час у міністэрстве Розэнбэрга часта абмяркоўваліся пытаньні арганізацыі працы з моладзьдзю на акупаваных тэрыторыях СССР, аднак доўга яны не прыводзілі да адназначных рашэньняў. У прыватнасьці, заставалася адкрытым пытаньне — ці аддзел моладзі павінен апекавацца маладзёнамі толькі нямецкай нацыянальнасьці, ці таксама займацца стварэньнем і кантролем згуртаваньняў мясцовай ненямецкай моладзі[2].

З мэтай дасьледаваньня канкрэтных мясцовых умоў для арганізацыі працы аддзелу ў лютым—сакавіку 1942 г. Нікель наведаў прыбалтыйскія краіны, Беларусь і Украіну, дзе вывучаў погляды кіраўнікоў нямецкай цывільнай адміністрацыі па гэтым пытаньні. Наступствам камандзіроўкі Нікеля быў дэкрэт Розэнбэрга ад 3 чэрвеня 1942 г., які аформіў стварэньне аддзелу моладзі ў міністэрстве і дазволіў генэральным камісарам у Літве, Латвіі і Эстоніі стварыць аналягічныя аддзелы ў іх установах. Згодна з дэкрэтам, адкрыцьцё аддзелу моладзі ў генэральным камісарыяце Беларусі адкладалася, а ўва Украіне ўвогуле не прадугледжвалася[3].

Розэнбэрг надалей не выказваўся наконт магчымасьці стварэньня нацыянальных арганізацыяў моладзі. Дадатнае вырашэньне гэтага пытаньня, якое садзейнічала б росту нацыянальнай актыўнасьці юнакоў і юначак, у пэўнай меры залежала ад стаўленьня да яго паасобных кіраўнікоў нямецкай цывільнай адміністрацыі на ўсходзе.

Супраць стварэньня нацыянальнай арганізацыі моладзі першым выступіў райхскамісар Украіны Эрых Кох, які ўсе свае праблемы спадзяваўся вырашыць з дапамогай бізуна. Таксама адмоўна паставіўся да гэтай ідэі генэральны камісар Літвы Адрыян Рэнтэльн, затое падтрымалі яе акупацыйныя ўлады ў Латвіі і Эстоніі. У Беларусі прыхільнікам стварэньня моладзевай арганізацыі быў яе генэральны камісар Вільгельм Кубэ. Маючы за сабой шматгадовы досьвед працы з моладзьдзю ў Нямеччыне, ён добра разумеў значэньне такой арганізацыі для актывізацыі беларускага нацыяналізму, які быў асноўнай канцэпцыяй яго палітыкі. Кубэ рэкамэндаваў акруговым камісарам падтрымліваць ініцыятывы беларускіх настаўнікаў і дзеячоў Беларускай народнай самапомачы ў галіне працы з моладзьдзю. Пад іх кіраўніцтвам яна праводзілася з восені 1941 г. у гуртках у Менску (кіравала Надзея Абрамава), Баранавічах, Вялейцы, Глыбокім і, магчыма, у іншых гарадах[4].

Аднак для стварэньня агульнакраёвай афіцыйнай арганізацыі неабходна была зго-

---

[1] Herzog R. Besatzungsverwaltung in den besetzten Ostgebieten — Abteilung Jugend. Tübingen, 1960. S. 9.
[2] Ibidem. S. 10.
[3] Mitteilungsblatt des Reichsministers für die besetzten Ostgebiete. Berlin, 6.06.1942.
[4] Юрэвіч Л. Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу беларускай моладзі. Менск, 2001. С. 135.

да Розэнбэрга. Тым часам яго чэрвеньскі дэкрэт адклаў такую магчымасьць на неакрэсьленую будучыню. Гэта, вядома, расчаравала Кубэ, хоць і не было для яго асаблівай нечаканасьцю, бо Розэнбэрг здаўна скептычна ацэньваў магчымасьці беларускага нацыяналізму і не спадзяваўся на перавыхаваньне моладзі, якая вырасла ўва ўмовах савецкай рэчаіснасьці. Праўда, пад канец 1942 г. ён дазволіў стварыць у менскім генэральным камісарыяце аддзел моладзі, але гэта яшчэ ня сьведчыла аб прынцыповай згодзе на заснаваньне беларускай арганізацыі моладзі. Аддзел, які ўзначалілі дзяячы гітлерюгенду банфюрэр Вільгельм Шульц і Юлія Грызэман, апекаваўся галоўным чынам сканцэнтраванай у Смалявічах нямецкай дзятвой, пакуль яна вясной 1943 г. не была перасяленая ў Нямеччыну. Лёс СБМ вырашаўся ў Бэрліне.

Істотную ролю ў заснаваньні беларускай арганізацыі моладзі адыграў Фабіян Акінчыц — ідэоляг і правадыр нацыянал–сацыялістычнага руху ў Заходняй Беларусі. Вясной 1939 г. ён прыбыў у Бэрлін, дзейнічаў пры ўстановах Розэнбэрга, а летам 1941 г. стаў супрацоўнікам аддзелу прэсы і прапаганды ОМі. Акупацыю Беларусі нямецкай арміяй Акінчыц успрыняў як доўгачаканы шанец перабудовы грамадзтва, яго абуджэньня зь летаргічнага нацыянальнага сну, чаго спадзяваўся дасягнуць шляхам перавыхаваньня беларускага юнацтва ў адпаведнасьці з прынцыпамі нацыянал–сацыялістычнай ідэалёгіі, у духу радыкальнага антыбальшавізму[5].

Акінчыц крытычна ставіўся да тагачасных эмігранцкіх лідэраў — Мікалая Шчорса, які ўзначальваў групоўку ў Варшаве, Івана Ермачэнкі ў Празе, Радаслава Астроўскага, Вітаўта Тумаша ў Лодзі ды іншых, якіх абвінавачваў у беспрынцыповасьці, кар’ерызьме і скурніцтве. З–за гэтага ён меў няшмат ідэйных паплечнікаў у Бэрліне, у сувязі з чым імкнуўся вызваліць зь лягераў ваеннапалонных беларусаў–інтэлігентаў, якія б падзялялі яго погляды, і такім чынам стварыць сваю групу дзеяньня.

Бадай першым зь іх стаў малады падхаружы (прапаршчык) польскай арміі Генрык Барановіч, які зь верасьня 1939 г. знаходзіўся ў нямецкім лягеры для ваеннапалонных. Відаць, у гэтым лягеры, які час ад часу наведваў Акінчыц, пачалося іх знаёмства і супрацоўніцтва, чаму спрыяла адмоўнае стаўленьне абодвух да бальшавізму. У выніку захадаў Акінчыца і Беларускага прадстаўніцтва ў Бэрліне ў кастрычніку 1940 г. Барановіч быў вызвалены зь лягеру і накіраваны ў Бэрлін у якасьці настаўніка[6].

Аднак “настаўнічаць” Барановічу давялося толькі праз год у Вустраўскай школе прапагандыстаў, а пакуль што ён быў пільным вучнем Акінчыца, які прышчапляў маладому сябру сваю беларускую стратэгію і пранямецкую тактыку, рыхтаваў яго на дзяяча будучай арганізацыі беларускай моладзі. З гэтай жа мэтай стварыў Барановічу магчымасьць кантактаў зь Дзяржаўным кіраўніцтвам моладзі, у якім ён вывучаў структуру і мэтады працы гітлерюгенду і адначасова прапагандаваў справу СБМ.

У сваіх зносінах зь Дзяржаўным кіраўніцтвам моладзі Акінчыц і Барановіч імкнуліся абгрунтаваць неабходнасьць стварэньня СБМ такімі аргумэнтамі, якія не пакінулі б абыякавымі немцаў. Гэтаму, у прыватнасьці, служыла “тэза” аб бальшавізацыі беларускай моладзі, “якая нідзе не працуе, ахвотна слухае Сталіна і папаўняе партызанскія банды”, якая часта выкарыстоўвалася зацікаўленымі нямецкімі дзяячамі[7].

[5] Гл. Фабіян Акінчыц — правадыр беларускіх нацыянал–сацыялістаў. С. 373—382 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

[6] Генрык Барановіч, сын Уладзіслава і Ганны, нарадзіўся 19.02.1916 г. у вёсцы Крывуля Ашмянскага павету. У сярэдзіне 30–х г. скончыў Віленскую настаўніцкую сэмінарыю, працаваў настаўнікам. Як падхаружы 5–га Віленскага пяхотнага палка ўдзельнічаў у нямецка–польскай вайне і 22.09.1939 г. трапіў у нямецкі палон. 9.10.1940 г. вызвалены зь лягеру ваеннапалонных, дзейнічаў у групе Акінчыца ў Бэрліне. Пасьля вайны жыў у Таронта, уваходзіў у склад кіраўніцтва Згуртаваньня беларусаў Канады, быў прыхільнікам БНРаўскай арыентацыі. Памёр у 2002 г. у Таронта.

[7] Archiwum Akt Nowych (AAN), александрыйскія мікрафільмы T–454, rolka 23/446—450: Die Lage der Jugend in Weissruthenien.

І хаця гэтая "тэза" ў пэўнай меры адлюстроўвала пазыцыю ўсходнебеларускіх камсамольцаў, яе перанос на ўсю беларускую моладзь стаў прапагандысцкім ходам, разьлічаным на дадатнае вырашэньне пытаньня беларускай арганізацыі, якая, можа, і павінна быць супрацьпастаўлена бальшавіцкім уплывам шляхам яе перавыхаваньня ў нацыянальным духу.

Іншы аргумэнт зыходзіў зь вялікага запатрабаваньня Нямеччыны на рабочую сілу і мізэрных вынікаў прымусовай вэрбоўкі ў Беларусі. І гэтае важнае для нямецкага кіраўніцтва пытаньне павінен быў вырашыць СБМ. Пра гэта сьведчыць праект статуту СБМ, апрацаваны Барановічам пры несумненным удзеле юрыста Акінчыца і кансультантаў Дзяржаўнага кіраўніцтва моладзі. Вось наступныя праграмныя ўказаньні, пададзеныя ў разьдзеле "Агульныя вызначэньні" праектаванага статуту:

> Дзейнасьць Саюзу беларускай моладзі ажыцьцяўляецца ў дзьвюх яго апэратыўных групах — "Беларусь" і "Нямеччына". Да першай належаць члены СБМ, якія жывуць у Беларусі, а да другой — якія працуюць у Нямеччыне. Адной з найважнейшых задач СБМ зьяўляецца ўключэньне беларускіх юнакоў і юначак у апэратыўную групу "Нямеччына". Гэта дазволіць моладзі актыўна ўдзельнічаць у змаганьні з бальшавізмам, разьвіваць пачуцьці сяброўства, удзячнасьці і неразьдзельнасьці лёсаў беларускага народу і Вялікай Нямеччыны, а таксама падрыхтавацца да пасьляваеннай адбудовы бацькаўшчыны. У асобных выпадках для членаў апэратыўнай групы "Нямеччына" будуць выдадзены спэцыяльныя вызначэньні[8].

Вясной 1943 г. нямецкія моладзевыя дзяячы, верагодна, з удзелам Барановіча, зьвярнуліся да авіяцыйнай фірмы Юнкерс у Дэсаў з прапановай накіраваць на вучобу і работу на заводы фірмы тысячу беларускіх юнакоў. Для абмеркаваньня гэтага пытаньня быў падрыхтаваны праект пагадненьня паміж інспэктарам СБМ і фірмай Юнкерс, які некаторыя гісторыкі памылкова выдаюць за заключаную дамову[9].

Аднак тады заключыць такое пагадненьне было немагчыма — СБМ яшчэ не існаваў і ня мог даць самазванаму інспэктару неабходнае паўнамоцтва. Тым ня менш была дасягнута прынцыповая згода на ажыцьцяўленьне гэтага мерапрыемства ў недалёкай будучыні, што значна падмацавала праграмныя ўстаноўкі праектаванага статуту СБМ.

Выглядае на тое, што падрыхтаваныя Барановічам праграмныя прынцыпы і спроба іх ажыцьцяўленьня задаволілі Дзяржаўнае кіраўніцтва моладзі і яго дзяяча ў ОМі — Нікеля. Вясной 1943 г. яно было гатовае падтрымаць стварэньне СБМ і аказаць яму матэрыяльную дапамогу (між іншага — пастаўляць уніформу), арганізаваць СБМаўскім дзеячам у Беларусі экскурсіі ў Нямеччыну і двухбаковае культурнае супрацоўніцтва паміж гітлерюгендам і СБМ. Адначасова Кіраўніцтва моладзі падтрымлівала Барановіча, які аказаўся здольным арганізатарам і лектарам Акінчыцавых курсаў падрыхтоўкі прапагандыстаў у Вустраве. На гэта паказвае захаваны ў архіўных матэрыялах ОМі недатаваны і непадпісаны тэкст "Саюз беларускай моладзі", які нагадвае праект дакладной запіскі Дзяржаўнага кіраўніцтва моладзі, падрыхтаванай Нікелю для дакладу кіраўніцтву міністэрства. Аўтар запіскі рэзюмаваў аргумэнты на карысьць заснаваньня СБМ і пісаў

---

[8] Тамсама. Т–454, ролік 23/451—458: Satzungen der Jugendorganisation "Weissruthenisches Jugendwerk".
[9] Белорусские остарбайтеры. Документы и материалы. Книга 2 (1943—1944). Минск, 1997. С. 104; Каваленя А. Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі 1941—1944. Вытокі, структура, дзейнасць. Мінск, 1999. С. 126; Белорусские остарбайтеры. Историко–аналитическое исследование. Минск, 2001. С. 80; у прыватнасьці, нельга згадзіцца з выказваньнямі, што дамова была заключана ў маі 1943 г. (а на думку Кавалені — нават у канцы мая), а ўжо 1 чэрвеня, г.зн. праз некалькі дзён, пачалася адпраўка юнакоў у Дэсаў. Нават у выпадку заключэньня дамовы на іх вэрбоўку спатрэбілася б больш часу.

паміж іншага: "Статут СБМ падрыхтаваў адзін беларус, які, па–мойму, адпаведны для ажыцьцяўленьня задач (гэтай арганізацыі. — *Ю.Т.*). Акрамя таго, ён мае неабходнае для кіраўніка моладзі жаданьне і зразуменьне патрэбнасьці і правільнасьці сваёй працы". Пры гэтым падкрэсьліваў яго добрае веданьне псыхікі моладзі і яе "беспамылковы інстынктыўны давер да яго"[10]. Такая рэкамэндацыя павінна была паспрыяць прызначэньню Барановіча шэфам–правадніком СБМ.

Аднак пад канец красавіка 1943 г., калі ў міністэрстве Розэнбэрга прымалася рашэньне па пытаньні СБМ, гэтая рэкамэндацыя ўжо не разглядалася, і віной таму стаў сам Барановіч. 11 лютага, незадоўга да свайго прыезду ў Менск з чарговай групай прапагандыстаў, ён выслаў Міхасю Ганьку ліст, у якім неабачліва раскрыў намер Акінчыцавай групы расправіцца зь Ермачэнкам і яго БНСаўскай камандай, якіх вінаваціў у неляяльнасьці да Нямеччыны і іншых цяжкіх грахох[11]. Ліст Барановіча наўрад ці дайшоў да адрасата — яго перахапілі службоўцы генэральнага камісарыяту і перадалі Кубэ, які падтрымліваў свайго супрацоўніка і пратэжэ Ермачэнку.

23 лютага Кубэ з абурэньнем паведаміў Розэнбэргу пра паводзіны Барановіча і адначасова абвінаваціў Ганька ў "раскладовай дзейнасьці", хацеў нават арыштаваць яго[12].

У выніку, пад канец лютага 1943 г. ні адзін, ні другі не маглі спадзявацца на прыхільнасьць генэральнага камісара, ад якога ў значнай меры залежала прызначэньне кіраўніка СБМ. Аднак ужо ў красавіку Кубэ схіляўся да прызначэньня Ганька. Невядома, што паўплывала на гэтую зьмену — ці Ганько змог неяк апраўдацца, ці пасьля прымусовай дэпартацыі Ермачэнкі зь Менску ў Прагу пытаньне такога ці іншага стаўленьня да яго было ўжо беспрадметным.

Рашэньне Кубэ не зьмяніла стаўленьня Барановіча да Ганька. Пазнаёміліся яны хутчэй за ўсё на Вустраўскіх курсах прапагандыстаў, дзе Барановіч быў лектарам, а Ганько — слухачом. З таго часу паміж імі склаліся сяброўскія стасункі, на што ўплывала ня толькі агульная ідэя, але і іх заходнебеларускае паходжаньне, блізкая мэнтальнасьць і нядаўні ваенны досьвед: абодва апынуліся ў нямецкім палоне — адзін з польскай, а другі з савецкай арміі. Абодва як выхаванцы і ідэйныя пасьлядоўнікі Акінчыца пасьля яго забойства (5.03.1943) не карысталіся прыхільнасьцю беларускіх дзяячоў і арыентаваліся толькі на працу з моладзьдзю. Скандал зь лістом не пазбаўляў Барановіча такой магчымасьці — яго прысутнасьць у Бэрліне, падтрымка Нікеля і Ганька дазвалялі яму спадзявацца на прызначэньне членам Кіраўнічага штабу і шэфам Інспэкцыі апэратыўнай групы "Нямеччына".

Пасьля бюракратычнай валакіты на пачатку мая 1943 г. ОМі адправіла праект статуту генэральнаму камісару ў Менск для зацьвярджэньня. Тут, аднак, адбылася нечаканасьць: Кубэ не пагадзіўся з вышэй цытаванай часткай "Агульных вызначэньняў" статуту, у якой прадугледжваўся падзел арганізацыі на апэратыўныя групы "Беларусь" і "Нямеччына", ды выкрасьліў яе з статуту. Гэтаксама быў выкрасьлены прадугледжаны ў яго пятым параграфе (Кіраўніцтва) запіс аб стварэньні шостага аддзелу Кіраўнічага штабу — Інспэкцыі апэратыўнай групы "Нямеччына". Тым самым страцілі сэнс усе палітычныя ўстаноўкі для членаў гэтай групы, у прыватнасьці — праектаваны вызначальны запіс: "Адной з найважнейшых задач СБМ зьяўляецца ўключэньне беларускіх юнакоў і юначак у апэратыўную групу «Нямеччына»" — якога таксама ня стала. Пасьля гэтых карэктываў статут СБМ быў апублікаваны ў беларускіх газэтах.

Адмаўленьне Кубэ ад апэратыўнай групы "Нямеччына", а тым самым ад уключэньня СБМ у вэрбоўку на працу ў нямецкай эканоміцы, зыходзіла зь яго перакананьня, што гэтую моладзь чакаюць больш важныя задачы на бацькаўшчыне. У красавіку 1943 г. на

[10] AAN, александрыйскія мікрафільмы T–454, rolka 23/465—469: Das weissruthenische Jugendwerk.

[11] AAN, александрыйскія мікрафільмы T–454, ролік 39/1055: ліст Г. Барановіча да М. Ганька ад 11.02.1943.

[12] AAN, александрыйскія мікрафільмы T–454, ролік 39/1053: ліст Кубэ да Розэнбэрга ад 23.02.1943.

нарадзе акруговых кіраўнікоў адміністрацыі ў Менску Кубэ выказаў погляд, што асноўнай задачай у працы з моладзьдзю ёсьць яе выхаваньне ў антыбальшавіцкім духу і шырокае выкарыстаньне ў адбудове беларускай гаспадаркі[13]. Таму ён не сьпяшаўся з адпраўкаю моладзі ў Нямеччыну. Не выпадкова пасьля афіцыйнага абвяшчэньня СБМ 22 чэрвеня 1943 г. яго кіраўніцтва некалькі месяцаў не займалася вэрбоўкай добраахвотнікаў і заключэньнем кантракту зь Юнкерсам. Нічога ў гэтай галіне ня мог зрабіць і Барановіч, які ў выніку выпраўленьня статуту ня меў фармальнай падставы выступаць у Бэрліне ад імя СБМ.

Аднак такое становішча трывала нядоўга. Пасьля забойства Кубэ (22.09.1943) яго пераемнік Курт фон Готбэрг настойліва дамагаўся актывізацыі СБМ і мабілізацыі моладзі на ажыцьцяўленьне вызначаных бэрлінскім кіраўніцтвам ваенна–эканамічных задач. Цяпер Ганько пачуваў сябе вальней і 12 лістапада 1943 г. падчас сустрэчы ў Вільні прызначыў Барановіча членам Кіраўнічага штабу і кіраўніком Працоўнай групы СБМ у Нямеччыне, а неўзабаве — упаўнаважаным СБМ у Нямеччыне з службовай ступеньню штандаровага[14]. На гэтай падставе Барановіч быў залічаны ў штаб Нікеля і меў сваю канцылярыю ў ОМі на Клёстэрштрасэ, 79, у Бэрліне. У арганізацыйнай структуры СБМ ён займаў другое месца пасьля шэфа–правадніка Ганька.

Адначасова пачалося ажыцьцяўленьне задуманага праекту. У канцы 1943 г., пасьля ўзгадненьня з СБМ, міністэрства акупаваных усходніх земляў заключыла зь фірмай Юнкерс афіцыйную дамову, якая акрэсьліла ўмовы вучобы і працы беларускіх юнакоў, а таксама абавязкі сыгнатараў[15].

Згодна з дамовай, фірма Юнкерс павінна была забясьпечыць юнакам прафэсійнае навучаньне, жыльлё, харчаваньне і кішэнныя грошы, а СБМ браў на сябе вэрбоўку юнакоў ува ўзросьце ад 14 гадоў і прызначэньне кіраўнікоў для апекі над моладзьдзю. Міністэрства з свайго боку абавязалася выдзеліць Юнкерсу аднаразовую субсыдыю ў суме 54 тыс. райхсмарак і пакрываць бягучыя выдаткі фірмы на ўтрыманьне юнакоў[16].

Першы год юнакі павінны былі вучыцца, рыхтавацца да працы. З такой мэтай быў вызначаны наступны распарадак заняткаў: каля 4 гадзін у дзень яны праходзілі фаховае навучаньне пад кіраўніцтвам заводзкіх майстроў, а астатнія 3 гадзіны прысьвячаліся агульнай адукацыі пад апекай беларускіх настаўнікаў, якіх меўся даставіць СБМ. Аднак з розных прычынаў распарадак заняткаў не вытрымліваўся. Паводле Барановіча, фаховае навучаньне юнакоў абмяжоўвалася да шасьці тыдняў, пасьля чаго іх дзялілі на групы і рассылалі на заводы Юнкерса. На пачатку 1944 г. падобную дамову ОМі заключыла з будаўнічай *Organisation Todt* (ОТ) у Бэрліне.

Адпраўленыя па кантрактах зь Юнкерсам і ОТ хлопцы стварылі працоўную групу СБМ у Нямеччыне, якой апекаваўся Барановіч пад наглядам служачых аддзелу моладзі ОМі Нікеля і Мэнцэля. Паводле нашых падлікаў, да вясны 1944 г. іх агульная колькасьць не перавышала 2000. Акрамя СБМаўскіх юнакоў, якія, як правіла, добраахвотна паступалі на работу, у Нямеччыне працавала яшчэ больш за 5000 маладых беларусаў, значная частка якіх была прывезена гвалтоўна. Яны належалі да катэгорыі г.зв. остарбайтэраў з статусам, няшмат адрозным ад ваеннапалонных[17]. Гэтыя маладыя остарбайтэры трактаваліся кіраўніцтвам СБМ як рэзэрвы росту Працоўнай групы. Як паведамлялася ў лістападзе 1943 г. бэрлінскай "Раніцай", Кіраўнічы штаб выслаў

[13] Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 3. 1994. № 1. С. 72.

[14] Белорусские остарбайтеры. Документы и материалы. Книга 2. С. 243; Ліст Г. Барановіча да А. Вініцкага ад 11.12.1967. Архіў аўтара.

[15] Herzog R. ... S. 33—34.

[16] Ibidem. ... S. 33—34.

[17] Белорусские остарбайтеры. Минск, 2001. С. 115—165.

у Нямеччыну некалькі праваднікоў з мэтай уцягнуць остарбайтэрскую моладзь у СБМ[18].

Нягледзячы на параўнальна лепшыя ўмовы жыцьця і працы СБМаўцаў, посьпехі гэтай акцыі былі сьціплыя. Як пісаў Алесь Галубіцкі (сапр. Аляксандар Марговіч), які ў чэрвені 1944 г. адведаў лягер у Крымічаў, "остаўцы" не любілі там СБМаўцаў, абзывалі іх здраднікамі і фашыстамі[19].

Аднак ня ўсюды пераважалі такія настроі, і частка "остаўцаў" далучылася да СБМ, што спрыяла росту Працоўнай групы ў Нямеччыне, колькасьць якой на пачатку чэрвеня 1944 г. складала 3500 юнакоў[20].

Колькасьць беларускай моладзі ў Нямеччыне значна павялічылася ў чэрвені–ліпені 1944 г., што было выклікана:

— прымусовым вывазам Вэрмахтам дзяцей і падлеткаў ува ўзросьце ад 8 да 14 гадоў у рамках г.зв. акцыі HEU (*heimatlos, elternlos, unterkunftlos*); паводле Галубіцкага, 1000 гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак былі ў палове чэрвеня прывезены зь Беларусі ў лягер Лертэ каля Гановэру, адкуль іх СБМаўскія кіраўнікі перавезьлі ў пераходны лягер Капэн каля Дэсаў[21]; паводле іншых крыніц, колькасьць вывезеных дзяцей дасягала 3000[22].

— эвакуацыяй у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1944 г. перад наступленьнем Чырвонай Арміі Кіраўнічага штабу СБМ і больш за 1000 дзяячоў моладзі, групы членаў Беларускай службы бацькаўшчыне і дзясяткаў тысяч цывільных жыхароў разам з моладзьдзю[23].

У гэты час моцна зьмянілася ваеннае становішча Нямеччыны — Усходні фронт, які нядаўна стаяў над Дняпром, цяпер стабілізаваўся на лініі Віслы, а на Захадзе саюзьніцкія войскі разьвівалі наступленьне ў Францыі. Летам 1944 г. ужо мала хто сумняваўся ў паражэньні Нямеччыны. Ува ўмовах узьніклага хаосу Кіраўнічы штаб СБМ, які 5 ліпеня апынуўся ў судэцкім горадзе Тропаў, параўнальна доўга ня ведаў, ці вызначыць яму задачы ў новых умовах нямецкае кіраўніцтва і якія. Таму ў канцы ліпеня Ганько зьвязаўся з Астроўскім, які згадзіўся прыняць СБМ пад крыло эвакуаванай Беларускай цэнтральнай рады.

Пасьля пагадненьня з Астроўскім Ганько выдаў дзьве адозвы. 1 жніўня 1944 г. ён заявіў аб аднаўленьні дзейнасьці Кіраўнічага штабу на тэрыторыі Нямеччыны, заклікаў юнакоў і юначак да дысцыпліны, паслухмянасьці і сумленнага выконваньня сваіх абавязкаў. "З нашай ахвяры, поту і крыві паўстане да жыцьця Вольная Беларусь!" — закончыў Ганько сваё выступленьне[24]. А праз тыдзень, 8 жніўня, заявіў: "СБМ добраахвотна пераходзіць ад сёньняшняга дня пад маральную апеку і ў сфэру кампэтэнцыі БЦР як адзінага праўнага і прызнанага найвышэйшага прадстаўніцтва беларускага народу"[25]. На падставе гэтай дэклярацыі 15 верасьня 1944 г. Ганько і Абрамава былі паклікаы ў склад членаў Рады БЦР[26].

Аднак аднавіць рэальную дзейнасьць сваёй арганізацыі Ганько ўжо ня змог. У новых умовах Саюз беларускай моладзі не асабліва цікавіў дзяячоў БЦР, ня быў ён патрэб-

[18] Раніца. 1943. 21 лістапада.

[19] Галубіцкі Алесь. Шляхі беларускіх дзяцей у вапошнюю вайну // Бацькаўшчына. Мюнхэн. 12.06.1955. № 24.

[20] Прамова Міхася Ганька // Беларуская Газэта. 1944. 28 чэрвеня.

[21] Галубіцкі А. ... Бацькаўшчына. Мюнхэн. 12.06.1955. № 24.

[22] Herzog R. ... S. 51; Каваленя А. ... С. 213.

[23] Вініцкі А. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Лос–Анджэлес, 1968 — Менск, 1994. С. 36.

[24] Раніца. 1944. 20 жніўня.

[25] Раніца. 1944. 3 верасьня.

[26] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан: БЦР, 1960. С. 121.

ны і аддзелу моладзі ОМі, які з дапамогай Барановіча кіраваў працоўнай групай СБМ. Праўда, Ганько лічыўся апекуном ваенна–дапаможнай групы беларускай моладзі, аднак і гэтая яго роля ня мела практычнага значэньня. У гэты час ён снаваў праекты стварэньня Саюзу вызваленьня Беларусі і, магчыма, удзельнічаў у арганізацыі выведна–дывэрсійных групаў на базе батальёну “Дальвіц”.

Затое множыліся задачы Барановіча. Ён павінен быў садзейнічаць уладкаваньню на працу беларускіх юнакоў і юначак, якія пасьля эвакуацыі апынуліся ў Нямеччыне, дбаць пра забесьпячэньне іх асноўных побытавых патрэбаў і прызначэньне ў працоўныя лягеры СБМаўскіх кіраўнікоў для нагляду за парадкам і дысцыплінай. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся эвакуаваныя зь Беларусі акруговыя і павятовыя кіраўнікі і кіраўнічкі СБМ, аднак іх было замала. У гэтай сувязі паўстала СБМаўская школа “Крывія” для падрыхтоўкі новых кіраўнікоў, у якую накіроўваліся адпаведныя эвакуаваныя юнакі і юначкі. Летам 1944 г. школа працавала ў мясцовасьці Мальта, у Альпах, а з кастрычніка — у Драйсігакер, каля гораду Майнінген (Турынгія) пад кіраўніцтвам Станіслава Грынкевіча (малодшага).

З мая 1944 г. у Бэрліне выдаваўся “Малады Змагар” — штомесячны ілюстраваны часопіс для беларускай моладзі, якая працавала ў Нямеччыне. Часопіс рэдагаваў Барановіч, якому дапамагалі эвакуаваныя зь Беларусі паэт Лявон Случанін, прафэсар Мікалай Байкоў ды іншыя. Выходзіў ён тыражом 5000 асобнікаў да лістапада 1944 г., пакуль саюзьніцкія самалёты не разбамбілі друкарні ў Бэрліне і Пляўэне, у якіх “Малады Змагар” друкаваўся. Іншы часопіс, “Вучэбны лісток”, выдавала зь лета 1944 г. ратытарнай тэхнікай Надзея Абрамава ў Тропаў. Ён прызначаўся для СБМаўскіх кіраўнікоў у працоўных лягерох моладзі. Абодва часопісы былі, па сутнасьці, адзінай формай камунікацыі кіраўніцтва СБМ з моладзьдзю.

Калі кіраўніцтва СБМ і на бацькаўшчыне не выкарыстоўвала гвалтоўных мэтадаў вэрбоўкі, то ў Нямеччыне не было на тое ні магчымасьці, ні патрэбы — моладзь, якая эвакуавалася зь Беларусі, сама шукала элемэнтарных умоў для пражыцьця. Дапамагаў ёй Барановіч, які накіроўваў новапрыбылых юнакоў і юначак у працоўныя лягеры пры заводах Юнкерса ці арганізацыі Тота (Todt) да моладзі, якая прыехала раней і была ўжо згуртаванай. Такая ж канцэнтрацыя стварала большыя магчымасьці апекі і нагляду ды спрыяла росту працоўнай групы СБМ.

Паводле афіцыйных дадзеных, на 1 жніўня 1944 г. у Нямеччыне працавала 4500 беларускіх юнакоў і юначак[27]. Гэтыя дадзеныя блізкія да ацэнкі Барановіча, паводле якой лік моладзі ўва ўзросьце ад 14 да 20 гадоў у складзе працоўнай групы СБМ даходзіў да 5000, зь якіх 3000 працавалі на заводах Юнкерса, а астатнія 2000 — у арганізацыі Тота[28]. Пазьней да працоўнай групы было далучана каля тысячы падлеткаў ува ўзросьце звыш 10 гадоў, у выніку, у лістападзе 1944 г. яе агульная колькасьць перавышала 6000 юнакоў і юначак, разьмешчаных у 20 лягерох[29].

Моладзь, прымацаваную да фірмы Юнкерс, спачатку прывозілі ў пераходны лягер Крымічаў у Саксоніі, дзе пасьля тэхнічнай падрыхтоўкі дзялілі на групы і рассылалі на заводы ў Дэсаў, Магдэбург, Мульдэнштайн і Цьвікаў. Каля паловы юнакоў, якія працавалі ў арганізацыі Тота, разьмяшчаліся ў Бэрліне, а меншыя групы — у Ростаку, каля Фалькенбургу на Памор'і, Рацібары ў Сылезіі і іншых мясцовасьцях. Асобныя лягеры былі арганізаваныя для дзяцей і падлеткаў. Найбольш іх пражывала ў Дэсаў (два лягеры), Капэн, Крымічаў, менш — у Магдэбургу, Мульдэнштайне і Эбэрсбаху каля Дрэздэну.

Як пісаў Барановіч (Чурыла), у выніку яго намаганьняў і прыхільнага стаўленьня дырэкцыі Юнкерса ды кіраўніцтва ОТ “уся беларуская моладзь, ахопленая СБМ у Ня-

[27] Herzog R. ... S. 35.
[28] Вініцкі А. ... С. 19.
[29] Раніца. 1944. 26 лістапада.

меччыне, мела людзкую вопратку, магчымыя баракі, абутак і харчаваньне такое самае, як нямецкая моладзь“[30]. Аднак іншыя сьведчаньні не пацьвярджаюць такой ацэнкі. Так, напрыклад, Мечыслаў Рачыцкі пісаў аб забойстве 14–гадовага хлопца з Наваградчыны ў сварцы за мерзлую бручку, што здарылася на пачатку 1945 г. у бэрлінскім лягеры ОТ[31]. Галіна Бузук, кіраўнічка дзяўчат у Мульдэнштайне, скардзілася, што яе малалетнія падапечныя вымушаны ў марозны час працаваць босымі[32]. Побытавыя ўмовы былі розныя, прычым, відаць, працоўная моладзь забясьпечвалася лепш, чым дзеці і падлеткі.

Вывезеныя прымусова зь Беларусі ў рамках акцыі HEU насельнікі лягераў патрабавалі спэцыяльнай апекі, якую павінны былі запэўніць СБМаўскія кіраўнікі і кіраўнічкі. Рыхтаваліся яны на двух–трохтыднёвых курсах у школе “Крывія”. Акрамя агульнага нагляду за дзятвой, яны мусілі па магчымасьці праводзіць элемэнтарныя заняткі па праграме першых клясаў пачатковай школы — вучыць чытаць, пісаць (калі было чым і на чым), навучаць пачаткам арытмэтыкі, сьпевам, ладзіць гульні, пастаноўкі, падтрымліваць у дзетак беларускі дух. “Адным словам, <…> рабілася ўсё магчымае, каб хоць трохі скрасіць гэтым няшчасным дзеткам іх шэрае, аднастайнае, сірочае жыцьцё на чужыне”[33].

Для старэйшай моладзі прадугледжваліся заняткі па беларусазнаўстве, галоўным чынам на падставе матэрыялаў, публікаваных у выдаваных у Нямеччыне газэтах і часопісах “Раніца”, “Беларускі Работнік”, “Малады Змагар” ды ў СБМаўскім бюлетэні “Вучэбны лісток”. Часта, аднак, пасьля доўгага працоўнага дня не хапала на тое часу і магчымасьцяў. Дарэчы, і аддзел моладзі ОМі, і кіраўніцтва СБМ не асабліва настойвалі на правядзеньні гэтых заняткаў — яны больш за ўсё цікавіліся пытаньнямі парадку і чысьціні ў бараках, здароўя і дысцыпліны юнакоў і юначак і г.д.

У Нямеччыне гэтая моладзь перш за ўсё цяжка працавала. Паводле Барановіча, яна выдатна выконвала свае задачы, чым заслужыла прызнаньне дырэкцыі Юнкерса і бэрлінскага кіраўніцтва[34]. Зьмяніў свой погляд на беларускую моладзь нават недаверлівы Розэнбэрг. Пасьля свайго візыту ў Дэсаў, 28 верасьня 1944 г., ён напісаў Гітлеру:

> Нядаўна я сам пераканаўся, як гэтыя беларусы працуюць на заводах Юнкерса ў Дэсаў… У выніку адпаведных разважных паводзінаў нямецкія рабочыя на заводзе згодна супрацоўнічаюць зь беларускай моладзьдзю, у адрозьненьне ад замежных рабочых, якія там працавалі раней, у прыватнасьці, ад італьянцаў. Да гэтага часу сярод беларусаў не заўважана ніякіх апазыцыйных настрояў, ані найменшага сабатажу[35].

Расьцярушаныя па розных лягерох, удзельнікі Працоўнай групы рэгістраваліся кіраўніцтвам СБМ у Нямеччыне і былі на яго ўліку. Таму прыведзеныя дадзеныя аб іх колькасьці можна лічыць блізкімі да сапраўднасьці. Затое юнакі і юначкі, якія служылі ў нямецкай арміі, не стваралі асобнай суцэльнай групы СБМ і не падлягалі яго кіраўніцтву. Праўда, шэф–праваднік Ганько лічыўся іх апекуном, але яго кантакт з моладзьдзю, як правіла, абрываўся пасьля яе перадачы нямецкаму камандаваньню. Ён нават ня меў дакладнай інфармацыі аб месцазнаходжаньні сваіх падапечных.

З гэтай прычыны наўрад ці магчыма вызначыць дакладную колькасьць членаў СБМ, якія служылі ў шэрагах нямецкай арміі. Гэтае пытаньне не цікавіла нямецкае камандаваньне, якое ў сваіх справаздачах не вылучала СБМаўцаў з агульнай масы завэрбава-

[30] Вініцкі А. ... С. 21—22.
[31] Тамсама, с. 45—46.
[32] НАРБ. Воп. 2, спр. 8, ч. 2, арк. 368—385: лісты Галіны Бузук да Надзеі Абрамавай.
[33] Вініцкі А. ... С. 32.
[34] Ліст Г. Барановіча да А. Вініцкага ад 11.12.1967, архіў аўтара.
[35] Archiwum Głównej Komisji Zbrodni Hitlerowskich w Warszawie, Amerykański Trybunał Wojskowy XI, Dokumenty Prokuratury, tom 45, list Rosenberga do Hitlera z 28.09.1944 (dok. № 2464).

най моладзі. Не разглядалася яно і беларускімі гісторыкамі на бацькаўшчыне і на эміграцыі. А значная разьбежнасьць ацэнак Ганька і Барановіча (пра што гл. ніжэй) толькі выклікае сумненьні ў іх верагоднасьці. Усё ж паспрабуем разгледзець гэтае няпростае пытаньне.

На пачатку 1944 г. у Беларусі ўзьнікла ідэя адпраўкі ў Нямеччыну групы юнакоў, якія пасьля колькімесячнай падрыхтоўкі павінны былі вярнуцца на бацькаўшчыну ў якасьці маладых афіцэраў. Ня ведаем, адкуль зыходзіла гэтая ініцыятыва, аднак можам не сумнявацца, што яна ажыцьцяўлялася з згоды ці на загад Готбэрга. Відаць, па яго ўказаньні вэрбоўкай добраахвотнікаў заняўся Кіраўнічы штаб СБМ.

16 красавіка 1944 г. у вайсковы падрыхтоўчы лягер у Мальце прыбылі 100 юнакоў. Аднак у выніку адступленьня немцаў зь Беларусі яны не вярнуліся на бацькаўшчыну і ня сталі афіцэрамі. Летам група была расфармаваная: большасьць курсантаў накіравалі ў 30–ю дывізію Зіглінга, а невялікую частку перадалі ў часовае распараджэньне кіраўніцтва СБМ у Нямеччыне[36].

У чэрвені 1944 г. з цывільнай і ваеннай зоны Беларусі значная колькасьць добраахвотнікаў ува ўзросьце 15—20 гадоў прыехала ў Нямеччыну на дапаможную службу ў Люфтвафэ. Вэрбоўку праводзілі афіцэры штабу Нікеля, па магчымасьці — з дапамогай акруговых кіраўнікоў СБМ. Колькасныя вынікі гэтай акцыі ацэньваліся па–рознаму. Паводле вярхоўнага камандаваньня войск цэнтральнага ўчастку Ўсходняга фронту, на дапаможную службу ў Люфтвафэ зьявілася зь Беларусі 4000 юнакоў, Ганько ж ацэньваў іх колькасьць на 3000—3200 (разам зь юначкамі), а Барановіч — на 5000[37].

Невядома, ці патрэбы Люфтвафэ былі меншыя, ці можа з–за непрыдатнасьці часткі кандыдатаў, але ў канчатковым выніку ня ўсе ахвотнікі былі прыняты камандаваньнем паветраных сілаў. Паводле справаздачы штабу Нікеля кіраўніцтву ОМі, на 20 верасьня 1944 г. у проціпаветранай ахове ўдзельнічала агулам 2354 беларускіх юнакоў і неакрэсьленая колькасьць юначак[38]. Пераважная іх колькасьць абслугоўвала зэнітную артылерыю, астатнія працавалі ў галіне сыгналізацыі і іншых сфэрах. Відаць, немалая частка завэрбаванай моладзі была накіравана ў дывізію Зіглінга ці іншыя фармаваньні Вэрмахту.

Варта заўважыць, што пэўная частка гэтай моладзі не ўваходзіла на бацькаўшчыне ў арганізацыю СБМ і толькі ў прыёмных лягерох атрымала членскія білеты і нацыянальныя павязкі на рукавы. Першапачаткова дружыньнікі Люфтвафэ накіроўваліся ў вучэбны лягер у г. Эгер, у Судэтах, а пасьля падрыхтоўкі іх падзялялі на групы і пасылалі да зэнітных батарэяў у розных мясцовасьцях Нямеччыны. Для юначак быў арганізаваны падрыхтоўчы лягер у горадзе Пютніц, у Памэраніі.

Апошнюю групу СБМаўскіх ваяроў складалі эвакуаваныя ў ліпені 1944 г. навучэнцы Менскай школы камандзіраў Беларускай краёвай абароны. Па дарозе ў невядомае большая іх частка вярнулася дамоў, некалькі загінула, і толькі 110—120 юнакоў дабраліся да месца канцэнтрацыі рэштак БКА і іншых вайскова–паліцэйскіх фармаваньняў у раёне Плоцку, над Віслай[39]. Пасьля кароткатэрміновай падрыхтоўкі іх улучылі ў 30–ю дывізію і 23 жніўня адправілі ў Францыю змагацца з амэрыканцамі.

Гэтыя тры групы СБМаўскай моладзі, якія апынуліся ў складзе 30–й дывізіі, супрацьпаветранай аховы і іншых фармаваньняў нямецкай арміі, разам налічвалі 4500—5000 юнакоў і юначак. Калі да гэтага дадаць удзельнікаў Працоўнай групы (часткова з

---

[36] Галубіцкі А. ... Бацькаўшчына. Мюнхэн. 12.06.1955. № 24.; Вініцкі А. ... С. 26.

[37] Зелений З. Українське юнацтво в вирі Другої світової війни. Торонто, 1965. С. 115; Вініцкі А. Бацькаўшчына. Мюнхэн. 12.06.1955. № 24. С. 22.

[38] Herzog R. Op. cit. С. 80.

[39] Грыбоўскі Ю., Казак К. Забытыя жаўнеры Польскага войска ў час Другой сусьветнай вайны. Мінск, 2003. С. 84; Вініцкі А. ... С. 56.

падлеткамі да 14–гадовага ўзросту), то восеньню 1944 г. агульны лік СБМаўскай моладзі ў Нямеччыне складаў 10—11 тыс. юнакоў і юначак.

Гэтая іх колькасьць, па сутнасьці, не мянялася да канца ваенных дзеяньняў, мянялася толькі сфэра прызначэньня моладзі. На пачатку 1945 г. нямецкая ваенная прамысловасьць была ўжо моцна разбурана саюзьніцкай авіяцыяй, у выніку чаго зьменшыліся патрэбы заводаў у рабочай сіле і частка моладзі магла быць накіравана ў армію. Паводле Барановіча, афіцыйнага набору ў Вафэн СС з СБМаўскіх рабочых лягераў не было, і ўсё ж у лютым 1945 г. немцы прывезьлі з Дэсаў у Бэрлін 200 юнакоў, якіх рыхтавалі для абароны гораду. Вайсковымі інструктарамі гэтай роты былі падафіцэры СС і СБМаўскія кіраўнікі, а агульны нагляд выконвалі банфюрэр Мэнцэль і Барановіч. “Ані адзін зь юнакоў ці кіраўнікоў СБМ не хацеў абараняць Бэрлін. Але мы ня мелі іншага выхаду”, — пісаў Барановіч пасьля вайны[40].

На СБМаўскае юнацтва спадзявалася і БЦР. Пасьля ўключэньня рэштак БКА ў 30–ю дывізію Астроўскі імкнуўся адбудаваць сваё войска. Выступаючы на зьездзе кіраўнікоў моладзі, які адбываўся 16—17 лістапада 1944 г. у школе “Крывія” ў Драйсігакер, ён заявіў: “Магчыма, у хуткім часе частку з вас мы паклічам у беларускі легіён, які будзе, безумоўна, пад палітычным кіраўніцтвам толькі і выключна БЦР, а апэрацыйна будзе падпарадкоўвацца нямецкаму галоўнаму камандаваньню”[41].

Аднак замест спадзяванага легіёну пад канец студзеня 1945 г. пачалося аднаўленьне дывізіі шляхам вэрбоўкі беларусаў. З гэтага часу яна ўжо звалася “30 Waffen–SS Grenadier Division (weissruthenische № 1)” (замест ранейшага назову “russische № 2”). Месцам яе фармаваньня былі ваколіцы Вайдэн–Гіршаў у Баварыі. У гэтую дывізію БЦР адправіла частку свайго т.зв. кадравага батальёну БКА, у складзе якога было некалькі дзясяткаў юнакоў, і занялася вэрбоўкай новых кандыдатаў. На пачатку сакавіка разаслалі вэрбоўшчыкаў у рабочыя лягеры, аднак вынікі былі нязначныя: ува ўмовах ужо блізкай катастрофы Нямеччыны мала хто хацеў за яе змагацца[42].

З гэтай жа прычыны няшмат ахвотнікаў было сярод юнакоў — удзельнікаў Працоўнай групы СБМ. Усё ж некаторыя ўступілі ў дывізію, якая фармавалася далёка ад меркаванай зоны савецкай акупацыі, а гэта давала надзею на паратунак ад нежаданых сустрэч з Чырвонай Арміяй. Туды ў канцы сакавіка зьехалі з Бэрліна, Дэсаў і іншых гарадоў СБМаўскія кіраўнікі Генрык Барановіч, Дзьмітры Стэльмах, Палікар Манькоў і іншыя. Урэшце недзе за месяц да капітуляцыі ў выніку захадаў БЦР у дывізію прыехала некалькі дзясяткаў юнакоў, якіх адпусьціла камандаваньне Люфтвафэ[43]. У канцы красавіка 1945 г., калі 30–я дывізія апынулася ў амэрыканскім палоне, у яе складзе лічылася амаль 1100 чалавек, у тым ліку — сотні СБМаўцаў.

Удзел юнакоў і юначак у ваенна–эканамічных мерапрыемствах Нямеччыны выклікаў пасьля вайны, мякка кажучы, некаторыя праблемы. Ніхто ня мог запярэчыць, што яны кавалі ў фабрыках зброю для нямецкай арміі, чым так захапляўся Розэнбэрг, што будавалі ваенныя аб'екты і дапамагалі зьбіваць саюзьніцкія самалёты. Аднак ніводзін з пасьляваенных Нюрнбэрскіх трыбуналаў, ніводзін дасьледчык ня мог даказаць прымусовай вэрбоўкі моладзі (акрамя акцыі HEU, да якой СБМ ня меў ніякага дачыненьня). Яна ішла добраахвотна.

Разглядаючы паступленьне моладзі на дапаможную службу ў Люфтвафэ, нямецкі дасьледчык Гэрцаг пісаў:

... цяжка ўявіць, што летам 1944 г., калі Вэрмахт паўсюдна адступаў, а на радзіме практычна

[40] Вініцкі А. ... С. 22.

[41] Раніца. 1944. 26 лістапада.

[42] Кушаль Ф. Спробы стварэньня беларускага войска. Менск, 1999. С. 110.

[43] Запруднік Я. Дванаццатка. Нью–Ёрк, 2002. С. 23.

панавалі партызаны, і ўжо амаль ніхто не сумняваўся ў пасьпяховым для Расеі выніку вайны, так многа юнакоў добраахвотна паступіла ў распараджэньне нямецкай арміі. Яны павінны былі ўяўляць, які лёс іх чакае ў выпадку паражэньня Нямеччыны[44].

Такі выбар моладзі быў асабліва невыгодны для беларускіх гісторыкаў. Яны, кіруючыся ідэалягічнымі ўстаноўкамі, як мага кляймілі СБМ, аднак не спрабавалі даказаць гвалтоўную вэрбоўку. Васіль Раманоўскі ў сваёй кнізе “Саўдзельнікі ў злачынствах” (1964) палічыў за лепшае не разглядаць гэтага пытаньня, а Аляксандар Каваленя, які ці ня першы зь беларускіх гісторыкаў нясьмела парушыў табу, зьвярнуў увагу на масіраваную прапаганду, якой паддаваліся нявопытныя беларускія юнакі і юначкі[45]. Да падобных вывадаў дайшоў і былы член Кіраўнічага штабу Ўладзімер Гарэлік, які спасылаўся на “палітычную няграматнасьць” СБМаўскага кіраўніцтва і моладзі[46].

Разглядаючы гэтае няпростае пытаньне, неабходна мець на ўвазе і тое, што такую “няграматнасьць” прадэманстравала моладзь з усіх земляў СССР, якія на той час яшчэ знаходзіліся пад нямецкай акупацыяй. Як паведамляў Нікель у сваёй вышэйзгаданай справаздачы, да 20 верасьня 1944 г. колькасьць добраахвотных памочнікаў Люфтвафэ з гэтых земляў дасягнула 18 917 юнакоў, у тым ліку ўкраінцаў 5933, латышоў 3614, эстонцаў 3000, беларусаў 2354, расейцаў 1383 і літоўцаў 1012. Акрамя іх, яшчэ было 2500 дзяўчат, разам — 21 417 юнакоў і юначак, якія ахоўвалі нямецкае неба[47].

Масавы ўдзел “савецкай” моладзі ў ваенна–эканамічных мерапрыемствах Нямеччыны быў несумненным фактам, які нелягічна тлумачыць толькі яе нявопытнасьцю і падатлівасьцю на прапаганду моладзевых арганізацыяў. Дарэчы, вэрбоўку праводзілі афіцэры штабу Нікеля: у Беларусі — дзе–нідзе з удзелам СБМаўскіх кіраўнікоў як перакладчыкаў, а ў Літве і Галіччыне, дзе падобныя арганізацыі не існавалі, гэтая акцыя праводзілася імі самастойна з цалкам задавальняючымі вынікамі.

Прычыны ўдзелу СБМаўскай моладзі ў працы на ваенную прамысловасьць Нямеччыны былі розныя. Адных клікала цывілізацыйная прывабнасьць Захаду і бясплатная пуцёўка ў Эўропу, іншых — спадзяваньне на тэхнічную ці ваенную адукацыю, лепшую долю пасьля вайны. Многія імкнуліся застрахавацца перад прымусовай адпраўкай у Нямеччыну ў якасьці остарбайтараў ці пазьбегнуць прызыву ў партызанскія атрады. Нямала было і такіх, якія імкнуліся пазьбегнуць спадзяванага бальшавіцкага вызваленьня.

Урэшце пэўная частка моладзі кіравалася ідэйнымі матывамі, якія сфармаваліся пад уплывам акупацыйных рэаліяў і выхаваўчай працы ў шэрагах СБМ. Пасьлядоўная беларусізацыя грамадзкага жыцьця, нацыянальная сымболіка, прапагандысцкая роля БЦР і многія іншыя фактары хутка ўплывалі на рост нацыянальнай сьвядомасьці і актыўнасьць моладзі і разглядаліся як гістарычны шанец аднаўленьня дзяржаўнасьці. Гэтаму не маглі перашкодзіць трагічныя вынікі партызанскай вайны: паўсюдна асуджаліся ня толькі злачынствы карных атрадаў, але і прычыны, якія іх выклікалі — маральнага аўтарытэту савецкага партызанскага руху яны не павялічвалі. Яны ў сваю чаргу спрыялі самачыннаму пашырэньню сярод часткі моладзі палітычнай арыентацыі на Нямеччыну. Гістарычныя вывады ці прапагандысцкія лёзунгі тут рабіліся лішнімі — само жыцьцё наглядна паказвала, што не Расея ці Польшча, а Нямеччына спрыяла нацыянальным інтарэсам Беларусі. Пацьвярджалі гэта захопніцкія памкненьні абодвух суседзяў падчас вайны. Выпадала з рахунку і арыентацыя на Англію і ЗША, якія ігнаравалі Беларусь, а падтрымлівалі гэтых суседзяў. Заставалася адна Нямеччына, зь якой

[44] Herzog R. Ibidem. P. 68.

[45] Каваленя А. ... С. 212—213.

[46] Гарэлік У. Успаміны пра арышт Кіраўнічага штабу СБМ вясной 1944 г. // Беларус. 2000. № 466. Студзень.

[47] Herzog R. Ibidem. P. 80.

зьвязваліся надзеі на дадатнае вырашэньне пытаньня беларускай дзяржаўнасьці. Але для гэтага патрабавалася перамога, перш за ўсё — у вайне з СССР.

Набліжалася, аднак, не перамога, а катастрофа, якую раней за немцаў адчула беларуская моладзь. Гімлер, які ніколі раней не пагаджаўся з нацыянальнай палітыкай Розэнбэрга і Кубэ ды пасьля замаху на Гітлера (20.07.1944) умацаваў сваю кіраўнічую пазыцыю, у верасьні 1944 г. ухваліў уласаўскую канцэпцыю стварэньня антыбальшавіцкага Камітэту вызваленьня народаў Расеі ды падпарадкаванай яму арміі, у якую загадаў улучыць, між іншым, беларускіх вайскоўцаў[48]. У выніку гэтага патрабаваньня ў сьнежні 1944 г. у войска Ўласава былі ўлучаны рэшткі 30–й дывізіі Зіглінга (расейская № 2), у якой знаходзіліся тысячы беларусаў. Праўда, пад канец студзеня 1945 г. пачалося аднаўленьне гэтай дывізіі ўжо як "беларускай № 1", і невядома, як склаўся б яе лёс, калі б пад канец красавіка яна не апынулася ў амэрыканскім палоне.

Кіруючыся патрабаваньнем Гімлера, у сакавіку 1945 г. Нікель спрабаваў перадаць уласаўскаму камітэту таксама ўсю моладзь з савецкіх тэрыторый, якая знаходзілася ў Нямеччыне, а ў яе ліку — і СБМ. 30 сакавіка ў штабе Нікеля адбылася сустрэча з прадстаўнікамі моладзі, між іншага — шэфам–праваднікам СБМ Ганьком, якія атрымалі машынапісны праект афармленьня моладзевых арганізацыяў пад юрысдыкцыяй Камітэту вызваленьня народаў Расеі[49]. Аднак на ажыцьцяўленьне гэтага праекту ўжо не засталося часу — неўзабаве пачаўся штурм Бэрліна, і да капітуляцыі Нямеччыны заставаліся лічаныя дні.

Для многіх юнакоў і юначак, палітычна зарыентаваных на Нямеччыну, стаўка Гімлера на Ўласава была раўназначная здрадзе нацыянальным інтарэсам Беларусі. Ніякай іншай апоры яны ўжо ня бачылі. Для многіх гэта была драма: сфармаваныя ідэйна ў духу патрыятычных СБМаўскіх "дзесяці запаветаў", яшчэ да капітуляцыі Нямеччыны яны апынуліся перад прывідам паўторнага маральна–палітычнага заняволеньня. Адных немцы заганялі ў абдымкі ўласаўскіх апекуноў, іншыя самі кіраваліся ў войска Андэрса, якое імкнулася аднавіць польскае панаваньне на беларускай зямлі. Нягледзячы на такія ці іншыя матывацыі, кожны, хто мог, клапаціўся ўжо толькі пра свой асабісты лёс.

*Друкуецца паводле:* Беларускі гістарычны агляд. 2004. Т. 11. Сш. 1—2 (20—21).

[48] Гімлер "аргумэнтаваў" гэта так: "Калі нейкі беларус ці ўкраінец стварае сваё войска, то, нягледзячы на гэта, ён жа застаецца рускім (ist er doch trotzdem ein Russe). Уявіце сабе, што прыходзіць да мяне нехта, напрыклад, нейкі нямецкі эмігрант з Баварыі ці Бадэну, і кажа, што ён ня немец, а толькі баварац ці бадэнец і змагаецца за свабоду Баварыі ці Бадэну. Гэта ж бяз сэнсу. Такое нам натварыў толькі гэты дурань Розэнбэрг. Дык вось, паведаміце мне пра колькасьць усіх гэтых рускіх" (Thorwald Jürgen. Wenn sie verderben wollen. Bericht des grossen Verrats. Stuttgart, 1952. S. 409—410).

[49] Зелений З. ... С. 173, 267—268.

## За кардонам

# Перад Варшаўскім зьездам Беларускага грамадзка–культурнага таварыства

Зь вялікай радасьцю ўспрыняло беларускае насельніцтва гораду Варшавы вестку аб утварэньні Варшаўскага аддзелу Беларускага грамадзка–культурнага таварыства.

Беларусы Варшавы — гэта ў значнай меры моладзь — былыя выпускнікі беларускіх сярэдніх школаў у Бельску і Гайнаўцы, якія зараз вучацца ў вышэйшых навучальных установах Варшавы — Політэхнічным інстытуце, Варшаўскім унівэрсытэце, Галоўнай школе плянаваньня і статыстыкі, Галоўнай школе сельскай гаспадаркі, Мэдыцынскай акадэміі і іншых.

Пастаянным імкненьнем беларускіх студэнтаў ёсьць як найлепш вучыцца і паглыбляць свае веды, рыхтавацца да адказнай працы ў розных галінах народнай гаспадаркі і культуры. Многія з нашых студэнтаў зьяўляюцца перадавікамі ў навуцы. Напрыклад, студэнт Політэхнічнага інстытуту Ю. Бусловіч, які таксама многа займаецца культурнай працай сярод моладзі. Пераважная большасьць нашых студэнтаў прымае актыўны ўдзел у грамадзкай працы і маладзёжнай арганізацыі ЗМП[1]. Многія зь іх атрымліваюць стыпэндыі і жывуць у інтэрнатах, дзе яны маюць усе ўмовы для працы і культурнага жыцьця. Нашыя першагоднікі жывуць у пасёлку “Дружба”, пабудаваным савецкімі будаўнікамі Палацу культуры і навукі.

Як жа непадобнае гэта ўсё да ўмоў, у якіх здабывалі навуку дзеці беларускіх сялян у капіталістычнай Польшчы.

Многія беларускія юнакі і дзяўчаты, якія закончылі навуку, жывуць пастаянна ў Варшаве, дзе займаюцца прафэсіянальнай працай. Акрамя моладзі, пражываюць у Варшаве таксама беларусы — рабочыя і служачыя.

Беларускае грамадзтва гораду Варшавы цікавіцца дасягненьнямі беларускай літаратуры. Вялікім попытам карыстаюцца беларускія кніжкі і часопісы, якія прысылаюцца ў Варшаву зь Беларускай ССР. Найлепш сьведчыць аб гэтым факт, як хутка разыходзяцца з паліц кніжных магазынаў найбольш цікавыя беларускія кніжкі. Такія часопісы, як “Звязда”, “Полымя”, “Беларусь”, “Маладосць” і “Вожык”, карыстаюцца вялікай цікавасьцю сярод беларускага насельніцтва Варшавы.

Вольны ад заняткаў час беларуская моладзь прысьвячае арганізацыі культурнай працы. Так, напрыклад, быў наладжаны літаратурны вечар, прысьвечаны творчасьці Я. Купалы, арганізаваліся таксама танцавальныя вечары і канцэрты, у якіх удзельнічалі, акрамя беларусаў, таксама палякі, рускія і ўкраінцы. Выдатную матэрыяльную дапамогу ў арганізацыі гэтых вечароў аказвала Рускае культурна–асьветнае таварыства[2]. З другога

---

[1] ЗМП — “Związek Młodzieży Polskiej” (“Саюз польскае моладзі”) — моладзевая камуністычная арганізацыя, якая існавала ў Польшчы ў 1948—1957 г. Аналяг савецкага камсамолу. У 1955 г. налічвала каля 2 млн. сяброў. Падчас кастрычніцкіх падзеяў 1956 г. у Польшчы арганізацыя фактычна распалася, у студзені 1957 г. афіцыйна распушчаная. — *А.П.*

[2] Расейскае культурна–асьветнае таварыства — дзейнічала ў Польшчы з 1956 да 1975 г. Гуртавала этнічных расейцаў — грамадзянаў Польшчы. Колькасьць сяброў арганізацыі ў розныя гады складала 6—9 тыс. чалавек. Галоўная ўправа таварыства знаходзілася ў Лодзі; акрамя таго, існавалі аддзелы ў розных польскіх гарадох. Выдавала штотыднёвік “Русский голос” і месячнік “Звено”. Забароненая ў

боку — беларусы прымалі ўдзел у канцэртах, арганізаваных Рускім культурна–асьветным таварыствам. Такія вечары называюцца тут “вечарамі дружбы”, таму што ўдзельнічаюць у іх беларусы, палякі, рускія, украінцы і нават баўгары.

Вялікую дапамогу беларускай моладзі аказвае таксама Галоўнае праўленьне Таварыства польска–савецкай дружбы, якое перадала ў карыстаньне нашай моладзі беларускія кніжкі, часопісы і пласьцінкі.

Вялікай і радаснай падзеяй у жыцьці беларускага насельніцтва Варшавы была дэкада польска–савецкай дружбы, якая праводзілася ў кастрычніку мінулага году. Зь вялікай цікавасьцю і, як правіла, у масавым парадку хадзіла наша моладзь глядзець спэктаклі Беларускага акадэмічнага драматычнага тэатру імя Я. Купалы. Пераважная частка нашай моладзі першы раз у сваім жыцьці слухала тэатральныя пастаноўкі на сваёй, беларускай мове.

Вельмі цікавай у час Дэкады была арганізаваная Саюзам польскіх пісьменьнікаў сустрэча з нашымі выдатнымі пісьменьнікамі — М. Танкам, П. Пестраком, П. Броўкам, Я. Брылём, А. Куляшовым і І. Шамякіным. Многія зь беларусаў, пражываючых у Варшаве, зь вялікім хваляваньнем сустракаліся зь пісьменьнікамі, гаварылі зь імі, слухалі вершы ў выкананьні аўтараў.

Была таксама арганізавана пры выдатнай дапамозе Таварыства польска–савецкай дружбы[3] сустрэча з артыстамі Беларускага тэатру імя Я. Купалы, якія выканалі фрагмэнты п’есы Я. Купалы “Паўлінка”. На гэтай сустрэчы прысутнічалі таксама палякі, расейцы і ўкраінцы.

Зь вялікай радасьцю сярод студэнтаў і ўсёй беларускай грамадзкасьці Варшавы была ўспрынята вестка аб адкрыцьці ў Беластоку беларускага штотыднёвіка “Ніва”. Ужо праз кароткі час “Ніва” здабыла сабе вялікую папулярнасьць і мае сваіх пастаянных падпісчыкаў і прапагандыстаў у Варшаве. Неабходна ў бліжэйшы час распаўсюдзіць падпіску ў Варшаве і пашырыць карэспандэнцыю зь “Нівай”.

Сур’ёзным недахопам у жыцьці беларускага грамадзтва гораду Варшавы было неіснаваньне сваёй арганізацыі, якая ладзіла б даклады і вечары, арганізацыі, якая магла б лепш кіраваць культурнай працай сярод моладзі. Таму вялікай і важнай справай ня толькі для моладзі, але для ўсяго беларускага грамадзтва Варшавы будзе арганізацыя доўгачаканага Аддзелу Беларускага грамадзка–культурнага таварыства, што наступіць 13 мая 1956 г.

Няма сумневу, што новы аддзел Таварыства яшчэ больш узьніме ўзровень грамадзкай і культурнай працы сярод беларускага грамадзтва гораду Варшавы.

*Друкуецца паводле:* ЛіМ. 1956. 13 мая.

---

1975 г. уладамі як “зборышча белагвардзейскай расейскай эміграцыі, антысацыялістычных і рэакцыйных элемэнтаў, ідэйна і клясава варожых асобаў”. — *А.П.*

[3] Таварыства польска–савецкай дружбы існавала ў Польшчы ў 1944—1991 г. Займалася арганізацыяй розных культурна–масавых мерапрыемстваў, у першую чаргу агітацыйнага характару: сьвяткаваньні гадавінаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, экскурсіі ў СССР, т.зв. “цягнікі дружбы”, дні савецкае культуры, фэстывалі савецкае песьні і г.д. У 1980–я г. налічвала каля 3 млн. сяброў, галоўным чынам дзякуючы масаваму запісу студэнтаў і працаўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстановаў. У 1991 г. пераўтворана ў Таварыства “Польшча—Расея”. — *А.П.*

# Да пасьпяховага ажыцьцяўленьня нашых мэтаў

Арганізацыйны зьезд Аддзелу Беларускага грамадзка–культурнага таварыства, які нядаўна адбыўся ў Варшаве, паставіў перад выбраным праўленьнем вялікія і адказныя задачы. Таварышы, што выступалі ў спрэчках, унесьлі многа цікавых прапановаў, зь якіх большасьць датычыла арганізацыйнай структуры і будучай працы Аддзелу таварыства.

З мэтай больш дзейнай арганізацыі культурнай працы сярод беларускага насельніцтва Варшавы пастаўлена задача ўтварыць пры Варшаўскім аддзеле БГКТ навукова–асьветную сэкцыю.

У гэтай сэкцыі намячаецца згуртаваць зацікаўленую студэнцкую моладзь і працоўную інтэлігенцыю, якія ў вольны час будуць арганізоўваць лекцыі і дыскусійныя вечары, прысьвечаныя беларускай літаратуры і мастацтву, азнаямляць грамадзкасьць Варшавы з гісторыяй Беларускай ССР і традыцыямі супольнай рэвалюцыйнай і вызваленчай барацьбы беларускага і польскага народаў, а таксама папулярызаваць вялікія посьпехі Беларускай ССР, дасягнутыя ў братняй сям'і народаў савецкае краіны. Прадбачана таксама ўтварыць сэкцыю мастацкай самадзейнасьці, якая дазволіць таленавітай моладзі ўтварыць свой харавы калектыў, вывучаць дэклямацыі і г.д.

Вельмі важнае значэньне для разьвіцьця культурнай працы будзе мець утварэньне пры Варшаўскім аддзеле БГКТ бібліятэкі і чытальні і забесьпячэньне яе адпаведнай колькасьцю кніжак і часопісаў.

У выніку доўгіх і ажыўленых спрэчак зьезд паставіў перад Праўленьнем аддзелу неадкладную задачу прыняць усе меры ў справе арганізацыі беларускай філялёгіі пры Варшаўскім унівэрсытэце. Пры гэтым неабходна падкрэсьліць, што з узрастаючай з году ў год колькасьцю беларускіх школаў у Польшчы адсутнасьць вышэйшай навуковай установы ў галіне беларускай мовы робіцца зусім недарэчнай і сур'ёзна стрымлівае прыліў кваліфікаваных пэдагагічных кадраў для беларускіх школаў. Зьезд таксама рэкамэндаваў Праўленьню аддзелу наладзіць супрацоўніцтва з Польска–савецкім інстытутам[1] у галіне папулярызацыі навуковых ведаў аб Беларускай ССР.

Чарговай задачай Варшаўскага аддзелу БГКТ зьяўляецца арганізацыя канцэртаў, танцавальных вечароў і экскурсіяў, а таксама наладжваньне кінафільмавых паказаў.

Намячаецца таксама наладзіць і пастаянна пашыраць сувязь з моладзьдзю савецкай Беларусі, асабліва паміж студэнтамі Менску і Варшавы.

Удзельнікі зьезду зьвярталі ўвагу на недастатковую інфармацыю ў "Ніве" аб жыцьці беларусаў у Варшаве. У сувязі з гэтым перад праўленьнем Варшаўскага аддзелу пастаўлена задача павялічыць супрацоўніцтва з нашым штотыднёвікам і пастаянна пашыраць карэспандэнцыю аб жыцьці і працы нашай студэнцкай моладзі і ўсяго беларускага насельніцтва Варшавы.

І яшчэ адной з асноўных задач, якая мае вельмі важнае значэньне для пасьпяховага ажыцьцяўленьня нашых мэтаў, зьяўляецца пастаяннае ўмацоўваньне дружбы і супрацоўніцтва з нашымі польскімі сябрамі, а таксама з братнімі — рускім і ўкраінскім таварыствамі[2] ў Варшаве.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1956. 3 чэрвеня.

---

[1] Польска–савецкі інстытут быў створаны ў Варшаве ў 1952 г., асноўнай яго задачай была падрыхтоўка выкладніцкіх кадраў расейскай мовы для польскай сярэдняй і вышэйшай школы. — *А.П.*

[2] Украінскае культурна–асьветнае таварыства заснавана 18 чэрвеня 1956 г. У 1991 г. пераўтворана ў Зьвяз украінцаў у Польшчы. — *А.П.*

# За правільны шлях!

Восем месяцаў — кароткі пэрыяд часу. Занадта кароткі, каб займацца ацэнкай вынікаў працы нашага таварыства. Аднак, з другога боку, гэта дастаткова доўгі пэрыяд, каб глянуць на шлях, якім ідзе таварыства, і падумаць аб яго правільнасьці.

Таму з радасьцю трэба прывітаць артыкул “Пара прачнуцца”, надрукаваны ў 35–м нумары “Нівы”, які, трэба спадзявацца, выкліча на старонках нашага штотыднёвіка адпаведную дыскусію аб арганізацыйнай працы таварыства, яе кірунках і формах.

У лютым гэтага году было паклікана да жыцьця Галоўнае праўленьне БГКТ. Насустрач гэтай важнай падзеі ў нашым жыцьці плылі надзеі і спадзяваньні беларусаў у Польшчы, што ГП будзе ініцыятарам вялікай і шырокай працы сярод беларускага насельніцтва, працы — якая будзе імкнуцца да ліквідацыі адсталасьці нашага насельніцтва ў галіне нацыянальнай культуры, ажыўленьня беларускай асьветы і школаў, пашырэньня зьвестак аб жыцьці нашых братоў у Беларусі і г.д.

Мінаюць месяцы. На наш погляд, маем права і абавязак прыгледзецца да ажыцьцяўленьня Галоўным праўленьнем гэтых пастулятаў. Вельмі трапна залічвае “Ніва” ў цытаваным артыкуле да найвялікшых дасягненьняў ГП пакліканьне да жыцьця Павятовых праўленьняў аддзелаў. Само акрэсьленьне мо і не зусім удалае, але правільнае: дагэтуль практычна існуюць не *аддзелы* таварыства, а *праўленьні* гэтых аддзелаў, якія, як правіла, не праяўляюць больш сур’ёзнай дзейнасьці. Цісьнецца ў галаву лягічнае пытаньне — што ёсьць прычынай гэтай арганізацыйнай зьмярцьвеласьці павятовых аддзелаў таварыства?

Мы ня ведаем падрабязнасьцяў супрацоўніцтва паміж ГП і праўленьнямі павятовых аддзелаў таварыства. Здаецца, аднак, што асноўнай прычынай недахопаў у гэтай галіне ёсьць няправільная арганізацыйная структура таварыства. Нельга інакш назваць арганізацыі, якая не дайшла да нас, а затрымалася на паўдарозе — на арганізацыі толькі павятовых аддзелаў. Вынікам гэтага зьяўляецца, між іншым, такі факт, што перагружаныя прафэсіянальнай і грамадзкай працай, а таксама сямейнымі абавязкамі члены павятовых праўленьняў ня маюць вялікіх магчымасьцяў разгарнуць працу нават у такіх асяродзьдзях, як Бельск, Саколка, Гайнаўка, Сямяцічы ці Гарадок, не гаворачы ўжо зусім аб разьвіцьці арганізацыйнай працы ў сваіх паветах, у бліжэйшых вёсках і мястэчках. Ці ж можна мірыцца з фактам, што насельніцтва многіх беларускіх вёсак Беласточчыны да гэтай пары нямнога ведае нават аб існаваньні таварыства?..

Таму першым вывадам, на наш погляд, ёсьць неабходнасьць арганізаваць ува ўсіх буйнейшых асяродках беларускага насельніцтва адпаведныя мясцовыя арганізацыі таварыства — аддзелы ці гурткі — назва і форма не павінна тут мець большага значэньня. Гэта, безумоўна, наблізіць працу таварыства да масаў і, з другога боку, — выкліча з народных масаў новых барацьбітоў за разьвіцьцё нашай нацыянальнай культуры.

Другая справа — гэта апека Галоўнага праўленьня над мясцовымі арганізацыямі таварыства. На гэтым месцы хочацца прывесьці некалькі заўваг з досьведу супрацоўніцтва Варшаўскага аддзелу з ГП у Беластоку, прычым досьведу не заўсёды вясёлага. Можна б безь вялікага перабольшаньня так сфармуляваць агульнае становішча ГП у адносінах да Варшаўскага аддзелу — “працуйце, каб усё было добра, але пакіньце нас у спакоі”.

Возьмем, напрыклад, справу кантактаў паміж Беластокам і Варшавай. Ці ж можна лічыць нармальным становішча, калі прадстаўнік ГП заглядае ў аддзел толькі пры на-

годзе камандзіроўкі ў Варшаву, калі трэба тое–сёе ўладкаваць у варшаўскіх установах? Ці можна лічыць правільным спыняць пасяджэньне ў сувязі з такімі важнымі падзеямі, як канцэрт у Варшаве? Далей: ці нармальным можна лічыць становішча, калі ў найцяжэйшы арганізацыйны пэрыяд Варшаўскага аддзелу ніхто з ГП не заглядаў цэлымі днямі, пакідаючы Праўленьне аддзелу на самацёк? Ці правільным, нарэшце, зьяўляецца становішча, каб замест актыўнай дапамогі ГП за кожную драбніцу, патрэбную Аддзелу, трэба было цяжка ваяваць з Галоўным праўленьнем?

На наш погляд — не!

Возьмем далей іншую справу — фінансавае забесьпячэньне дзейнасьці таварыства ў Варшаве. Зразумела, што бюджэт БГКТ, які складае на 1956 год каля 400000 злотых, ня мог забясьпечыць нават часткі матэрыяльных патрэбаў мясцовых арганізацыяў таварыства. Хочацца, аднак, атрымаць з ГП вытлумачэньне — якая менавіта частка бюджэту была выкарыстана на фінансаваньне дзейнасьці аддзелаў, а якая — на патрэбы ГП у Беластоку.

Не бязь цяжкасьцяў удалося праўленьню Варшаўскага аддзелу “вырваць” зь бюджэту таварыства каля 10000 злотых, што не забясьпечыла нават сродкаў на абсталяваньне Аддзелу ў Варшаве. Як можна разумець забарону з боку ГП выдаткаваць некалькі сот злотых на важнае паведамленьне ў варшаўскім друку аб арганізацыі Беларускага хору ў Варшаве? Цікава было б ведаць, як выглядаюць гэтыя справы ў павятовых аддзелах? І калі не выглядаюць лепш, чым у Варшаве, то ці ня будзе лішняй раскошай кансумаваньне бюджэтных сродкаў, якія дае дзяржава на разьвіцьцё культурнай працы сярод беларускага насельніцтва ў цэлай Польшчы, амаль выключна на патрэбы Галоўнага праўленьня ў Беластоку? Што новага ў гэтых адносінах прынясе Аддзелу ў Варшаве новы 1957 год? Зноў пэрспэктывы ня вельмі ружовыя, калі ўзяць пад увагу тое, што таварышы з ГП не лічылі патрэбным нават абмеркаваць з Праўленьнем аддзелу праект бюджэту аддзелу ў сувязі з патрэбамі і плянуемым расшырэньнем працы аддзелу і, такім чынам, праект бюджэту на 1957 год быў складзены без удзелу Праўленьня аддзелу.

Урэшце, трэцяя справа, якая сур’ёзна стрымлівае дзейнасьць усяго таварыства — гэта адсутнасьць у Галоўным праўленьні канкрэтнага ідэалягічнага напрамку. Да гэтай пары ГП ня можа даць простага адказу на пытаньне, што зьяўляецца асноўнай, практычнай мэтай таварыства — разьвіцьцё беларускай асьветы ці калектывізацыя сельскай гаспадаркі, разьвіцьцё калектываў мастацкай самадзейнасьці ці праблема рынку працы ў Беласточчыне. Яркім доказам гэтага зьяўляюцца погляды таварышаў з ГП на выключна важную справу рэпрэзэнтацыі беларускага насельніцтва ў польскім сейме. У гэтай справе таварышам з ГП лягчэй слухаць ня голасу масаў, а чакаць на інструкцыі з КВ Партыі...

Між тым ідэалягічныя задачы велічэзныя. Гэта датычыць як міжнародных і ўнутраных праблемаў, так і праблемаў спэцыфічных для беларускага насельніцтва, якое жыве ў межах польскай дзяржавы. Вынікам адсутнасьці ярка акрэсьленага палітычнага напрамку зьяўляецца і тое, што ГП аказалася няздольным даць рашучы адпор і правесьці адпаведную прапаганду сярод беларускага насельніцтва ў сувязі з пачынаньнямі безадказных шавіністычных элемэнтаў, якія мелі месца падчас VIII пленуму ЦК ПАРП[1].

Задачы, якія стаяць перад Беларускім грамадзка–культурным таварыствам у

[1] VIII пленум Цэнтральнага камітэту Польскай аб’яднанай рабочай партыі (ПАРП) адбыўся ў кастрычніку 1956 г. На ім была праведзеная крытыка палітыкі партыі ў папярэднія гады, першым сакратаром ЦК выбраны Ўладзіслаў Гамулка, за некалькі месяцаў да гэтага выпушчаны з турмы. Акрамя таго, на пленуме была прынятая праграма выкараненьня культу асобы і частковай мадыфікацыі палітычнай і гаспадарчай сыстэмы: абмежаваньне рэпрэсіяў, адмова ад калектывізацыі сельскае гаспадаркі, пашырэньне грамадзянскіх свабодаў і г.д. Пленум праходзіў ува ўмовах народных хваляваньняў па ўсёй краіне, зьбіраліся мітынгі на заводах і ў навучальных установах. Падчас гэтых мітынгаў гучалі антысавецкія лёзунгі. — *А.П.*

Польшчы, вельмі вялікія і складаныя. Ажыцьцяўленьне гэтых задачаў можа забясьпечыць толькі цесная сувязь з масамі. Аднак практыка сьведчыць, на жаль, аб чымсьці іншым. Сьведчыць аб гэтым, між іншым, факт працягваньня тэрміну скліканьня пленуму ўладаў БГКТ. Сьведчыць аб гэтым таксама факт бюракратычнага глушэньня ініцыятывы масаў і аддзелаў таварыства. Гэтыя шкодныя практыкі адрыву ад масаў ня могуць забясьпечыць ажыцьцяўленьня нашых задач. Галоўнаму праўленьню неабходна зьмяніць цяперашні стыль працы.

Пэрыяд схематызму ў працы мінуў беззваротна. Галоўнаму праўленьню пара зразумець, што грамадзка–культурная праца — гэта перш за ўсё праца з масамі і для масаў. А гэта можа быць зьдзейсьнена толькі шляхам актывізацыі і добрай працы аддзелаў таварыства. І таму з гэтага ГП павінна зрабіць вывад, што месца дзейнасьці таварыства — гэта ўсе гарады і вёскі, дзе жыве беларускае насельніцтва, а ня толькі горад Беласток.

Бліжэй да масаў, бліжэй да жыцьця, таварышы з Галоўнага праўленьня! Ад гэтага ў першую чаргу залежыць пасьпяховасьць нашай працы.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1956. 18 лістапада.

# Першы год працы

13 мая 1956 году быў пакліканы да жыцьця Варшаўскі аддзел Беларускага грамадзка–культурнага таварыства.

Год таму сябры з арганізацыйнага камітэту не ўяўлялі сабе ўсёй складанасьці будучай арганізацыйнай працы ў варшаўскім асяродзьдзі. Пачаткова многім думалася, што праца таварыства ў Варшаве будзе ахапляць амаль выключна студэнцкую моладзь, якая навучаецца ў варшаўскіх вышэйшых навучальных установах. Час, аднак, паказае іншае. Месяц за месяцам дзейнасьцю таварыства ў Варшаве зацікаўлялася ўсё большая колькасьць беларусаў — пастаянных жыхароў гораду — рабочых, рамесьнікаў, працоўнай інтэлігенцыі.

У сувязі з гэтым расьлі і зьмяняліся задачы аддзелу. Справа выхаваўчай працы сярод студэнцкай моладзі была і засталася найбольш важнай для Варшаўскага аддзелу. Аб гэтым праўленьне аддзелу ніколі не пераставала думаць. Другім важным участкам працы было беларускае насельніцтва, якое пастаянна жыве ў Варшаве, людзі, якія часта цэлымі гадамі ня бачылі кніжкі на роднай мове, ня чулі сваёй песьні. Людзі гэтыя неаднаразова былі поўнасьцю адарваны ад беларускай культуры і ня мелі магчымасьці пазнаць ні культурнай спадчыны, ні сучаснага беларускага жыцьця.

Дзеля гэтых прычын беларуская культурная арганізацыя ў Варшаве ставалася з году ў год пякучай патрэбай і аб'ектыўнай грамадзкай неабходнасьцю.

Першапачатковай задачай праўленьня аддзелу было згуртаваньне беларусаў вакол таварыства. Справа гэта была і далей застаецца нялёгкай. "Дасягненьні" пасьляваеннага дваццацігодзьдзя ў галіне нацыянальнай палітыкі пакінулі трывалы сьлед... Недавер'е беларусаў яшчэ больш павялічылі кастрычніцкія падзеі, якія суправаджаліся разгулам польскага шавінізму, антысавецкімі і антыбеларускімі настроямі[1]. Усё гэта, зразумела, не засталася без уплыву на працу БГКТ у Варшаве.

Сёньня хочам верыць, што пэрыяд гэты належыць ужо да мінулага. Але нельга заплюшчваць вочы на факт, што яшчэ да сёньняшняга дня ў польскім грамадзтве, акрамя здаровых, прагрэсіўных, інтэрнацыяналістычных сілаў, ёсьць пэўная колькасьць людзей абаламучаных нацыяналістычнай прапагандай. У сувязі з гэтым патрэбная вялікая выхаваўчая праца ў галіне ўзаемнага азнаямленьня і збліжэньня беларускага і польскага насельніцтва. Нашае таварыства можа і павінна зрабіць свой унёсак у гэтую вялікую справу.

Як Варшаўскі аддзел БГКТ справіўся з гэтымі задачамі? Што было зроблена на працягу мінулага году ў галіне згуртаванасьці беларусаў у Варшаве, у галіне культурна–асьветнай працы і ўмацаваньня польска–беларускай дружбы?

Гэта праўда, што Аддзел атрымаў невялічкае памяшканьне, якое ўжо часткова абсталявана. Яно ёсьць базай дзейнасьці таварыства ў Варшаве. Праўда, што на працягу году вырас і ўзмацнеў актыў Таварыства — ахвярных і адданых людзей, якія ў найцяжэйшых маральных і матэрыяльных умовах не адступалі перад цяжкасьцямі, але знаходзілі досыць сілы, каб іх вырашыць і перагмачы.

У выніку настойлівых стараньняў Галоўнага праўленьня і Варшаўскага аддзелу была створана і працуе беларуская філялёгія пры Варшаўскім унівэрсытэце; за кароткі час

[1] Гл. камэнтар да артыкула "За правільны шлях!". Да сказанага трэба толькі дадаць, што падчас шматлікіх мітынгаў у асноўным гучалі, натуральна, антысавецкія лёзунгі. Але ўлічваючы тое, што беларуская нацыянальная меншасьць у Польшчы ўспрымалася як актыўны прасавецкі элемэнт — то маглі праяўляцца і антыбеларускія акцэнты. — *А.П.*

быў зарганізаваны беларускі хор у Варшаве; дзякуючы дапамозе Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай у Менску і ахвярнасьці сяброў Таварыства расьце і разьвіваецца беларуская бібліятэка ў Варшаве, якая налічвае пакуль што каля 300 тамоў. Аддзел атрымоўвае і прадстаўляе зацікаўленым чытачам значную колькасьць беларускіх рэспубліканскіх газэт і часопісаў.

Праўда таксама, што за мінулы год Аддзел арганізаваў некалькі вечароў, што быў арганізаваны Выдавецкі камітэт, расшыралася супрацоўніцтва з навуковымі працаўнікамі і студэнтамі беларускай філялёгіі, што ўжо маем "Ніву" ў варшаўскіх кіёсках, што аддзел распаўсюдзіў пэўную колькасьць літаратуры.

Нарэшце, бадай, адным з важнейшых нашых дасягненьняў ёсьць тое, што аддзел БГКТ здолеў разбудзіць зацікаўленасьць сярод варшаўскага грамадзтва — як беларускага, так і польскага — да працы Таварыства і месяц за месяцам заваёўваў сабе права грамадзянства ў Варшаве.

Сёньня, калі ўступаем у другі год нашай працы, трэба ўсьведаміць сабе ўсе цяжкасьці, якія чакаюць нас у бліжэйшай будучыні. Праўленьню аддзелу БГКТ у Варшаве трэба павялічыць намаганьні, каб як найбольш беларусаў у Варшаве згуртавалася вакол таварыства. Трэба, каб беларусы ў Варшаве як найхутчэй ліквідавалі нацыянальную і культурную ізаляцыю і ўлучаліся па меры сваіх індывідуальных магчымасьцяў да грамадзкай і культурнай працы таварыства. Няхай гэтаму служаць арганізаваныя літаратурныя і танцавальныя вечары, сустрэчы і сходы. Няхай кожны беларус у Варшаве папулярызуе задачы таварыства таксама і сярод польскага насельніцтва. Гэта паслужыць добрай справе дружнага сужыцьця паміж беларусамі і палякамі.

Маючы на ўвазе спэцыфіку беларускага насельніцтва ў Варшаве, пражываючага ў польскім асяродзьдзі, праўленьню аддзелу трэба разгарнуць шырэйшую культурна–асьветную працу. Трэба перш за ўсё зьвярнуць увагу на распаўсюджваньне беларускіх кніжак і часопісаў сярод насельніцтва, шырэй распаўсюджваць наш штотыднёвік "Ніва", далей працаваць над павышэньнем узроўню працы хору і іншых форм мастацкай самадзейнасьці.

Няхай кожны беларус у Варшаве знойдзе сабе месца ў працы таварыства.

Сёньня, калі з пэрспэктывы аднаго году глядзім на пройдзены намі шлях, нашы сэрцы і думкі злучаюцца ў адным імкненьні — сустрэнем новы год працы яшчэ большай згуртаванасьцю і арганізаванасьцю і, сьвядома заглядаючы ў вочы ўсім цяжкасьцям, будзем зь яшчэ большай настойлівасьцю іх перамагаць.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1957. 12 мая.

# Гэта толькі пачатак

Думка аб наведваньні савецкай Беларусі даўно ўжо не давала супакою студэнтам беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту. Гэтае імкненьне маладых людзей, якія ўсё сваё жыцьцё прысьвяцілі вывучэньню і працы ў галіне беларускай мовы і літаратуры беларускага народу, было зусім зразумелае.

Не прыйшлося доўга чакаць на зьдзяйсьненьне гэтай мары. На запрашэньне Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай[1] і Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту 16 верасьня з Варшавы ў Беларускую ССР ад'ехала група студэнтаў і навуковых супрацоўнікаў катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту колькасьцю 24 чалавек. Толькі восем кароткіх дзён прыйшлося пабываць нам у Беларусі. Гэтыя радасныя дні былі перапоўненыя вялікімі ўражаньнямі і перажываньнямі, якія цяжка нам забыцца праз доўгі–доўгі час.

За час прабываньня ў Беларусі нашы экскурсанты наведалі Берасьце, Менск, Гомель і Наваградак. Акрамя вялікага будаўніцтва ў гарадох Беларусі, перш за ўсё кідаецца ў вочы прыкладны парадак і незвычайная для жыхара польскіх гарадоў чысьціня. Чысьціня такая, што проста сьмеласьці не хапала кідаць на вуліцы акурак ад папяросы...

Магутнасьць беларускай савецкай прамысловасьці была нам паказана на прыкладзе двух прамысловых гігантаў рэспублікі — Менскага аўтамабільнага заводу і Гомельскага заводу сельскагаспадарчага машынабудаваньня. У сучасны момант Менскі аўтамабільны завод выпускае каля 14 тысяч грузавых аўтамабіляў у год, што перавышае вытворчасьць гэтай галіны прамысловасьці ў цэлай Польшчы. МАЗ выпускае, між іншым, самыя вялікія ў Эўропе 25 і 40–тонныя аўтамашыны — самазвалы, адно кола якіх роўнае росту чалавека. Найвялікшую цікавасьць для экскурсантаў, не азнаёмленых з тэхналёгіяй вытворчасьці, прадстаўляў канвэер, зь якога што некалькі хвілінаў сыходзіць адна гатовая машына зь белавескім зубрам — сымбалем магутнасьці.

У адрозьненьне ад МАЗу, пабудаванага пасьля вайны, Гомсельмаш — адно з найстарэйшых прадпрыемстваў сацыялістычнай індустрыі Беларускай ССР. Гомсельмаш — дзецішча І пяцігодкі — выпусьціў за гады свайго існаваньня незьлічоныя колькасьці разнастайных сельгасмашын, якія працуюць на палёх усяго СССР. Зараз завод спэцыялізуецца ў вытворчасьці камбайнаў для ўборкі кукурузы.

Вялікіх посьпехаў дабілася сельская гаспадарка Беларусі, асабліва ў апошнія 3—4 гады. На прыкладзе калгасу імя І.В. Сталіна Гомельскага раёну наша моладзь пазнаёмілася зь передавой калгаснай гаспадаркай рэспублікі, наведала кароўнікі, цялятнікі, сьвінафэрму, гутарыла з калгасьнікамі, гасьціла ў іх дамах. Трэба сказаць, што гэты калгас–мільянэр ня ёсьць ані выключэньнем, ані адным з найлепшых у рэспубліцы. Аб гэтым хай сьведчаць наступныя факты. Калі ў 1953 г. у Беларусі было толькі 109 калгасаў–мільянэраў, то ўжо ў 1956 годзе было іх 1338, г.зн. амаль 1/3 усіх калгасаў у рэспубліцы. За паказаны пэрыяд грашовыя прыбыткі ўсіх калгасаў Беларусі павялічыліся ў 3,5 разы.

Цікавыя старонкі гераічнага змаганьня беларускага народу супраць фашысцкіх за-

[1] Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай было заснавана ў 1952 г., а ў 1958 г. перайменавана ў Беларускае таварыства культурнай сувязі з замежнымі краінамі. У савецкія часы яно было асноўнай арганізацыяй, празь якую беларускія дзеячы культуры падтрымлівалі сувязі з сваімі калегамі з замежжа. — *А.П.*

хопнікаў былі паказаны ў музэі абароны Брэсцкай крэпасьці, які знаходзіца на развалінах ранейшай крэпасьці, а таксама ў Менскім музэі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Тут многія нашы сябры маглі таксама пазнаёміцца з партызанскай вайной на тэрыторыі тагачаснага Беластоцкага ваяводзтва.

Асабліва многа часу прысьвячалася ў пляне экскурсійных заняткаў азнаямленьню з навукай і культурай Беларусі. Зразумела, што найбольш каштоўнымі і цікавымі былі сустрэчы ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, дзе нашы студэнты і навуковыя супрацоўнікі навязалі сардэчныя сувязі з моладзьдзю і выкладчыкамі, слухалі лекцыі, абменьваліся вопытам у навуковай працы. Акрамя БДУ, мы пабывалі ў Політэхнічным інстытуце ў Менску і Інстытуце інжынэраў чыгуначнага транспарту ў Гомелі, дзе многа чаго можна было навучыцца ад нашых савецкіх сяброў.

За час прабываньня ў БССР мы мелі магчымасьць пазнаёміцца зь беларускім тэатрам і кіно. Пераважная частка нашай моладзі з хваляваньнем першы раз у жыцьці глядзела спэктаклі і кінафільмы на беларускай мове.

Жыцьцё і складаны творчы шлях вялікага нашага песьняра Янкі Купалы былі нам паказаны ў музэі Я. Купалы ў Менску.

Навуковы работнік музэю Яніна Прыбышкова зь вялікай любоўю знаёміла нас з нашым вялікім паэтам. Нашы экскурсанты наведалі таксама музэй А. Міцкевіча ў Наваградку, дзе мы навочна пераканаліся, як ушаноўвае беларускі савецкі ўрад памяць вялікага польскага песьняра.

Дні прабываньня на зямлі беларускай прайшлі як адна хвіліна. Цяжка зьмясьціць усе нашы перажываньні і ўражаньні ў адным артыкуле. Заводы і тэатры, музэі і інстытуты — усё гэта захапляла і хвалявала нашу моладзь.

Але найбольш цікавымі, прыцягальнымі, найбольш радаснымі былі сустрэчы зь беларускай моладзьдзю. Тут не патрэбна было ні прадстаўляць, ні знаёміць адзін аднаго. На працягу літаральна некалькіх хвілін завязваліся знаёмствы і дружба паміж варшаўскімі і менскімі студэнтамі.

Ужо ад першай хвіліны прабываньня ў Менску на вакзале горача з кветкамі сустрэлі нас дзяўчаты і юнакі — студэнты БДУ. За цэлы час экскурсіі на кожным кроку мы сустракалі шчырыя і радасныя позіркі беларускай моладзі, адбываліся вясёлыя сустрэчы, неадлучным спадарожнікам якіх былі песьні і словы “будзем сябраваць”! Сустрэчы з моладзьдзю пакінулі на ўсіх нас амаль што наймацнейшае ўражаньне, якое нам цяжка будзе забыць.

Многія экскурсанты забралі з сабой у Варшаву незабыўныя ўспаміны, многія ўзамен пакінулі ў Менску частку свайго сэрца... Ад’яжджалі, але нікому з нас ня верылася, што гэта ўжо канец. Не, сапраўды, не канец гэта, а пачатак. Пачатак нашых сяброўскіх сустрэч. Думаем, што Варшаўскаму ўнівэрсытэту і Беларускаму грамадзка–культурнаму таварыству трэба будзе як мага хутчэй адплаціць нашым менскім калегам падобнай сустрэчай у Варшаве.

Няма ніякага сумневу, што нашы сустрэчы і наша сяброўства будзе садзейнічаць яшчэ большаму ўмацаваньню дружбы і супрацоўніцтва паміж Варшаўскім і Менскім унівэрсытэтамі, яшчэ большаму азнаямленьню і набліжэньню народаў Польшчы і Беларусі.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1957. 13 кастрычніка.

# З дапамогай сяброў

Нядаўна ў Беластоку адбыўся II усяпольскі зьезд Беларускага грамадзка–культурнага таварыства, на якім былі падведзеныя вынікі двухгадовай дзейнасьці таварыства ў Польшчы і вызначаныя асноўныя напрамкі працы БГКТ на будучае.

Нягледзячы на значныя цяжкасьці, Беларускае грамадзка–культурнае таварыства ў Польшчы дасягнула за кароткі пэрыяд сваёй дзейнасьці нямала посьпехаў. Гэтых посьпехаў яно дамаглося з дапамогай народнай улады ў Польшчы дзякуючы таму жыватворчаму супрацоўніцтву, якое ўсталявалася паміж Польскай Народнай Рэспублікай і Савецкім Саюзам.

У сучасны момант працуе шэсьць аддзелаў БГКТ (Беластоцкі, Бельскі, Гайнаўскі, Сакольскі, Сямяціцкі і Варшаўскі), якія аб'ядноўваюць 42 сельскія гурткі таварыства. Акрамя Беласточчыны, працуюць мясцовыя арганізацыі таварыства ў Варшаве і Шчэціне, членамі якіх зьяўляюцца пераважна студэнты, што навучаюцца ў гэтых гарадох. Члены таварыства адчуваюць штодзённую ўвагу і падтрымку з боку мясцовых польскіх уладаў.

Асаблівым клопатам Беларускага грамадзка–культурнага таварыства ў Польшчы ёсьць разьвіцьцё асьветы на роднай мове сярод беларускага насельніцтва. Зараз на Беласточчыне працуе 49 беларускіх школаў, а таксама 116 школаў, у якіх беларуская мова выкладаецца як прадмет. У гэтых школах навучаецца каля дзевяці тысяч хлапчукоў і дзяўчынак — дзяцей мясцовых сялян беларусаў. У гарадох Бельску і Гайнаўцы створаны два беларускія агульнаадукацыйныя і адзін пэдагагічны ліцэі.

Беларуская мова як прадмет выкладаецца ў польскім агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове, а таксама ў ліцэі выхавацельніц дзіцячых садкоў у Беластоку. Вядзецца падрыхтоўка да выкладаньня беларускай мовы ў іншых агульнаадукацыйных і прафэсіянальных сярэдніх школах у тых раёнах Беласточчыны, дзе жыве беларускае насельніцтва.

Надзвычай важнае значэньне для далейшага разьвіцьця асьветы і культуры сярод беларускага насельніцтва ў Польшчы мае падрыхтоўка высокакваліфікаваных кадраў, якія добра ведаюць беларускую мову і літаратуру. Ужо другі год працуе пры Варшаўскім унівэрсытэце катэдра беларускай філялёгіі. Зараз на I курсе вывучаюць беларускую мову і літаратуру 11 студэнтаў і на II курсе — 15 студэнтаў. Працуе таксама і завочнае аддзяленьне беларускай мовы і літаратуры пры настаўніцкай студыі ў Бельску.

Вялікая ўвага надаецца далейшаму разьвіцьцю мастацкай самадзейнасьці на Беласточчыне. У сучасны момант там налічваецца звыш сарака харавых, танцавальных і драматычных калектываў. Слава аб некаторых зь іх ужо ідзе па ўсёй Польшчы.

Адзін час нам неставала адпаведнай літаратуры. У нашых бібліятэках было мала беларускіх кніг. Месцамі і цяпер ёсьць такія бібліятэкі. Аднак і на гэтым участку ўжо наглядаецца зрух. Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай у Менску цяпер пасылае ў Польскую Народную Рэспубліку многа мастацкай, навуковай літаратуры на беларускай мове. Намаганьні БГКТ ідуць у напрамку арганізацыі ў бліжэйшай будучыні Беларускага выдавецтва ў Польшчы, якое магло б забясьпечыць самыя неадкладныя патрэбы школаў і насельніцтва на беларускую кніжку.

Вялікае значэньне ў разьвіцці арганізацыйнай і культурнай працы сярод беларускага насельніцтва мае друкаваны орган БГКТ — "Ніва". За кароткі час свайго існаваньня "Ніва" здабыла значную папулярнасьць сярод чытачоў. На сваіх старонках яна друкуе многа матэрыялаў з жыцьця беларускіх сялян, моладзі. "Ніва" ёсьць трыбунай

абмену вопытам настаўнікаў, адзінай газэтай у Польшчы, дзе беларускія маладыя паэты і пісьменьнікі друкуюць свае першыя творы. Вялікая ўвага надаецца на старонках "Нівы" папулярызацыі роднай мовы, гісторыі Беларусі, азнаямленьню беларускага насельніцтва ў Польшчы з сацыялістычным будаўніцтвам у савецкай Беларусі і ўва ўсім Савецкім Саюзе, з традыцыямі супольнай барацьбы польскага і беларускага народу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Вялікай папулярнасьцю, асабліва сярод школьнікаў, карыстаецца газэта для дзяцей "Зорка", якая выдаецца ў Беластоку.

Асабліва вялікую ўвагу надае Беларускае грамадзка–культурнае таварыства ў Польшчы ўмацаваньню і паглыбленьню цесных і ўсебаковых сувязяў зь Беларускай ССР. Пастаянная дапамога савецкай Беларусі мае вялікае значэньне для беларусаў, якія жывуць у Польшчы. З 1956 г. працуюць ува ўнівэрсытэце ў Варшаве беларускія спэцыялісты па гісторыі літаратуры і беларускай мове В. Тарасаў і М. Бірыла. Дзевяць нашых студэнтаў атрымалі магчымасьць вучыцца ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце ў Менску. Сярод іх М. Гайдук і П. Чарнякевіч заканчваюць у бягучым годзе філялягічны факультэт БДУ.

Цікавыя пэрспэктывы адкрываюцца перад нашымі маладымі навуковымі работнікамі ў галіне паглыбленьня ведаў у адпаведных навуковых установах Беларускай рэспублікі. Ад пэўнага часу знаходзіцца ў Менску супрацоўнік катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту асьпірант А. Баршчэўскі[1], які карыстаецца каштоўнай дапамогай у падрыхтоўцы сваёй кандыдацкай дысэртацыі па гісторыі беларускай літаратуры. Таксама аўтару гэтых радкоў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт выказаў згоду дапамагчы ў падрыхтоўцы кандыдацкай дысэртацыі па эканамічнай геаграфіі Беларусі.

Устанаўліваецца і пашыраецца дружба паміж студэнтамі Менскага і Варшаўскага ўнівэрсытэтаў. Восеньню 1957 г. пабывалі ў Беларусі па запрашэньні Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай і Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту група студэнтаў і выкладчыкаў Варшаўскага ўнівэрсытэту. У адказ Варшаўскі ўнівэрсытэт запрасіў у ПНР студэнтаў і выкладчыкаў БДУ, якія зараз рыхтуюцца да гэтай паездкі.

У апошні час усё больш беларусаў, якія жывуць у ПНР, наведваюць савецкую Беларусь, знаёмяцца зь яе гарадамі, сацыялістычнай прамысловасьцю, сельскай гаспадаркай, з дасягненьнямі беларускага народу ў галіне культуры і мастацтва. На працягу двухтыднёвага прабываньня ў Беларускай ССР мне давялося пазнаёміцца з навуковымі ўстановамі Менску, пабываць на канцэртах, глядзець прэм'еру выдатнай пастаноўкі тэатру опэры і балету "Блакітны Дунай". Вялікае ўражаньне пакінула таксама дэманстрацыя працоўных Менску ў дзень міжнароднага сьвята працоўных — 1 Мая.

Ідучы насустрач вялікаму жаданьню насельніцтва Беласточчыны, у Польскай Народнай Рэспубліцы пабывала дэлегацыя ўраду БССР, якая ў канцы красавіка падпісала пагадненьне з уладамі ПНР аб безвалютным прыгранічным абмене паміж Польскай Народнай Рэспублікай і Беларускай ССР.

Беларускае грамадзка–культурнае таварыства ў Польшчы прымае новыя захады для далейшага пашырэньня і паляпшэньня сваёй работы. Разам з усім народам мы прыкладаем многа сілаў для будаўніцтва ў нашай краіне сацыялізму, для далейшага ўмацаваньня і разьвіцьця дружбы і супрацоўніцтва Польскай Народнай Рэспублікі з савецкай Беларусьсю, з народамі ўсяго Савецкага Саюзу.

*Друкуецца паводле:* ЛіМ. 1958. 14 мая.

---

[1] Баршчэўскі Аляксандар (пс. Алесь Барскі) (нар. 1930) — беларускі паэт, філёляг і фальклярыст, доктар філялёгіі. Жыве ў Польшчы, супрацоўнік катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту. — *А.П.*

# Пара задумацца над тэатрам

Значэньне тэатру ў жыцьці нацыянальнай меншасьці — дваістае. Ён спаўняе, падобна як у кожным асяродзьдзі, вялікую ролю ў павышэньні *агульнага* ўзроўню культуры насельніцтва, з другога боку — ён робіць вельмі істотны ўнёсак у разьвіцьцё і папулярызацыю культуры і мастацтва ў *роднай мове*.

Ці існуюць шанцы на арганізацыю беларускага тэатру для нашага насельніцтва ў Польшчы? Пытаньне гэтае, несумненна, складанае, тым ня менш цікава яго разгледзець.

У выніку сыстэматычнай апекі з боку народнай дзяржавы з кожным годам штораз лепш забясьпечваюцца патрэбы беларускай нацыянальнай меншасьці ў галіне асьветы і культуры на роднай мове. Большае, чым у сярэднім у Польшчы, разьвіцьцё мастацкай самадзейнасьці ў беларускім асяродзьдзі сьведчыць аб вялікім зацікаўленьні і прывязанасьці насельніцтва да драматычнага мастацтва. Вялікі гэты рух — трэба шчыра сказаць — смажыцца ўва ўласным соўсе. Не памяншаючы ні ў чым пазытыўных бакоў мастацкай самадзейнасьці, нельга не заўважыць факту, што яна не выходзіць, як правіла, па–за рамкі сваёй вёскі ці ваколіцы — як з пункту гледжаньня выканаўцаў, так і гледачоў. Толькі ў рэдкіх выпадках арганізацыі фэстываляў ці падобных аглядаў беларускае мастацкае слова даходзіць да гарадзкіх сцэн, прычым — зноў шчыра — на ўзроўні, які з абгрунтаваных прычын ня можа раўняцца з выкананьнем прафэсіянальных артыстаў сцэны.

Урэшце, раўнаньне мастацкай самадзейнасьці з прафэсіянальным мастацтвам ня мае вялікага сэнсу, таму што самая аснова і задачы абодвух гэтых напрамкаў мастацтва зусім розныя. Трэба толькі зьвярнуць увагу на адну, на мой погляд, важную акалічнасьць. Пераважная частка самадзейнікаў — людзі маладыя, часта школьная моладзь. Сярод іх ёсьць немалая колькасьць здольных, таленавітых людзей. Самадзейнасьць не стварае ім жыцьцёвых пэрспэктываў. Іх мастацкая дзейнасьць кончыцца, як правіла, адначасова з заканчэньнем школы, утварэньнем сям'і і г.д. Гінуць так натуральнай сьмерцю неразьвітыя таленты і здольнасьці. Сам факт існаваньня тэатру садзейнічаў бы росту зацікаўленьня нашай моладзі такімі напрамкамі навукі, як драматургія, рэжысура, літаратура, мастацтва і г.д., што, нарэшце, не магло б не ўплываць на грамадзкі і культурны аванс моладзі.

Здаецца, што дзейнасьць беларускага тэатру ў Беластоку павінна б быць у асноўнай меры накіравана на абслугоўваньне культурных запатрабаваньняў насельніцтва беларускіх вёсак, мястэчак і павятовых гарадоў, словам, усіх, дзе існуюць да таго адпаведныя ўмовы. Грамадзкая патрэба такога мерапрыемства бадай несумненная.

Няма ніякага сумневу, а пацьвярджае гэта шматгадовая практыка нашых мастацкіх калектываў і эстрады "Лявоніха"[1], што беларускае насельніцтва на Беласточчыне з радасьцю і карысьцю для сябе прывітала б новы, важны ачаг культуры — Беларускі тэатар.

Здаецца таксама, што ажыцьцяўленьне такога мерапрыемства не павінна ня выклікаць зацікаўленьня з боку міністэрства культуры.

Арганізацыя тэатру — справа складаная. Яна патрабуе і фінансавых сродкаў, і часу на падрыхтоўку кадраў — актораў, рэжысэраў, — і шэраг іншых мерапрыемстваў. Менш складанай ёсьць, аднак, тая ісьціна, што, чым хутчэй пачнецца арганізацыя гэтага вялікага мерапрыемства, тым хутчэй Беларускі тэатар прыступіць да нармальнай працы.

---

[1] "Лявоніха" — вакальна–інструмэнтальны беларускі ансамбль на Беласточчыне, створаны ў 1960 г. Дзейнічаў пад апекай Беларускага грамадзка–культурнага таварыства.

Несумненна, вялікія магчымасьці ў гэтай галіне мае Беларускае грамадзка–культурнае таварыства. Праўда, не таварыства будзе займацца непасрэдна справамі арганізацыі і вядзеньня тэатру, тым ня менш БГКТ як грамадзкая арганізацыя можа і павінна аналізаваць патрэбы беларускага насельніцтва ў гэтай справе і перадаваць іх адпаведным уладам. І далей. Стаім таксама напярэдадні IV зьезду БГКТ, які хіба можа найбольш заявіць аб грамадзкай і культурнай мэтазгоднасьці паклікання да жыцьця гэтага яшчэ аднаго ачага культуры беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1963. 9 чэрвеня.

# Памяці Аляксандра Валкавыцкага (да 25–годзьдзя трагічнай сьмерці)

Аляксандар Валкавыцкі нарадзіўся ў 1895 годзе ў вёсцы Забалотчына Ваўкавыскага (цяпер Гайнаўскага) павету ў малазямельнай сялянскай сям'і. Бацькі Аляксандра, нягледзячы на іх цяжкое сацыяльнае і эканамічнае становішча (гаспадарылі яны на невялікім — 1,5 га — участку ворнай зямлі), імкнуліся ў меру сваіх сьціплых магчымасьцяў запэўніць сыну неабходную адукацыю. У 1902 годзе яны пасылаюць сямігадовага хлопчыка вучыцца ў існаваўшую ў той час у суседняй Нараўцы расейскую народную школу.

Пасьля заканчэньня школы ў Нараўцы Аляксандар Валкавыцкі пастурае ў гарадзкое вучылішча ў Сьвіслачы, якую закончвае незадоўга перад першай сусьветнай вайной. У час прабываньня ў Сьвіслацкім вучылішчы ў Аляксандра паступова разьвіваецца зацікаўленасьць працай на ніве народнай асьветы. Немалы ўплыў на гэта мелі тагачасныя настаўніцкія традыцыі Сьвіслачы. Менавіта тут існавала арганізаваная яшчэ ў 1876 годзе настаўніцкая сэмінарыя, якая на працягу некалькіх дзясяткаў гадоў сваёй дзейнасьці адыграла істотную ролю ў пашырэньні народнай асьветы на Гарадзеншчыне і Беласточчыне, выпускаючы значную колькасьць настаўнікаў для пачатковых школаў. Дарэчы, прафэсія настаўніка была ўва ўмовах царскага рэжыму параўнальна найбольш даступнай формай грамадзкага авансу для беларускай сялянскай моладзі.

Ужо пасьля адступленьня расейскіх войскаў восеньню 1916 году ў Сьвіслачы арганізоўваецца першая ў гісторыі нашай нацыянальнай асьветы Беларуская настаўніцкая сэмінарыя, якая рыхтуе пэдагагічныя кадры для ўзьнікаючых у гады сусьветнай вайны беларускіх школаў. Разам зь сябрамі і сяброўкамі зь Беласточчыны пастурае ў гэтую сэмінарыю і Аляксандар Валкавыцкі. Тут на працягу васьмімесячнага курсу ён атрымоўвае неабходную пэдагагічную падрыхтоўку, пасьля чаго назначаецца настаўнікам беларускай народнай школы ў вёсцы Прыкалесь Ваўкавыскага павету. У гэтай школе ён працуе да 1919 году — да часу яе закрыцьця польскімі ўладамі.

У гады буржуазнай Польшчы Аляксандар Валкавыцкі дзеліць лёс шматлікіх беларускіх настаўнікаў, якія былі пазбаўлены магчымасьці працаваць на ніве роднай асьветы. У такіх умовах у першыя пасьляваенныя гады ён працуе на гаспадарцы, а ад 1926 году — у якасьці бракёра ў лясным ведамстве Белавескай пушчы.

Аднаўленьне і разьвіцьцё беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў гады савецкай улады (1939—1941) адкрывае перад Аляксандрам Валкавыцкім магчымасьць вярнуцца да любімай прафэсіі настаўніка. Восеньню 1939 году ён назначаецца кіраўніком беларускай пачатковай школы ў вёсцы Масева Гайнаўскага раёну, у якой працуе да нямецкай акупацыі. Адначасова ён паглыбляе свае настаўніцкія кваліфікацыі на пэдагагічных курсах.

Нямецкая акупацыя на Беласточчыне спыняе на цэлыя два гады пэдагагічную дзейнасьць Аляксандра Валкавыцкага. У жніўні 1941 году немцы, праводзячы прафіляктычную акцыю забесьпячэньня перад дзейнасьцю партызан, паляць і разбураюць шматлікія вёскі ў раёне Белавескай пушчы. У гэты час ідзе з дымам таксама вёска Масева, пасьля чаго А. Валкавыцкі зь сям'ёй эвакуюецца ў вёску Козьлікі Беластоцкага павету. Аднак праз некалькі месяцаў ён зноў вяртаецца ў родныя мясьціны. У 1942 годзе пачынае працу на шкіпінарным заводзе ў Скупаве, а пасьля яго зьнішчэньня партызанамі пераяжджае ў Нараўку. Летам 1943 году, калі пад уплывам ваенных няўдач на Ўсходнім фронце акупацыйныя ўлады Беластоцкай акругі крыху лібэралізавалі свае ра-

нейшыя адносіны да беларускага школьніцтва, Аляксандар Валкавыцкі разам зь іншымі мясцовымі настаўнікамі арганізуе беларускую пачатковую школу ў Нараўцы, у якой працуе на працягу 1943/44 школьнага году.

Пасьля вызваленьня Беласточчыны ад гітлераўскіх акупантаў Аляксандар Валкавыцкі стае ў першыя шэрагі барацьбітоў за ўмацаваньне маладой народнай улады. У хуткім часе ён уступае ў Польскую народную партыю[1] і працягвае працу ў Нараўскай школе, дзе выкладае беларускую мову.

Дзейнасьць Аляксандра Валкавыцкага была сольлю ў вачох рэакцыйнага падпольля, якое актывізавалася на Беласточчыне неўзабаве пасьля адыходу на фронт разьмешчаных тут злучэньняў Чырвонай Арміі. 17 красавіка 1945 году ён гіне ў Нараўцы ад кулі злачынцаў з брыгады АК “Лупашкі”. Разам зь ім загінулі нараўскія актывісты — Іван Ляшчынскі, Пётар Кабац і Мікалай Леўша.

Так закончылася жыцьцё настаўніка–патрыёта Аляксандра Валкавыцкага, неразлучна зьвязанае з імкненьнем служыць справе асьветы свайго народу. Яно было ўвасабленьнем усёй гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў пэрыяд да перамогі народна–дэмакратычнага ладу.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1970. 12 красавіка.

[1] Польская народная партыя (Polskie Stronnictwo Ludowe). Непасрэдна пасьля вайны ў Польшчы было 2 партыі з падобнай назвай. Адна зь іх была пасьлядоўніцай Народнай партыі “ROCH”, і ўзначальвалі яе: намінальна — вядомы дзяяч польскага сялянскага руху Вінцэнты Вітас, а фактычна — былы прэм’ер польскага эміграцыйнага ўраду Станіслаў Мікалайчык. Другая, Народная партыя, была створаная камуністамі з мэтай перацягнуць у партыі Мікалайчыка частку прыхільнікаў. Відаць, як вынікае з папярэдняй біяграфіі, Аляксандар Валкавыцкі належаў да другой партыі. — *А.П.*

# Нарыс разьвіцьця школьніцтва на Беласточчыне[1] (1773—1939 г.)

Апошняе стагодзьдзе існаваньня Рэчы Паспалітай было найбольш цяжкім пэрыядам у гісторыі гэтай шматнацыянальнай дзяржавы. Узрастаючыя, асабліва ад палавіны XVII ст., сацыяльныя, рэлігійныя і нацыянальныя антаганізмы, частыя сялянскія паўстаньні і працяглыя войны абумовілі заняпад сельскай гаспадаркі, рамяства і гандлю, прывялі да руіны многія гарады і вёскі, а таксама да значнага зьмяншэньня колькасьці насельніцтва краіны[2].

Адначасова наглядаецца значны заняпад асьветы ўва ўсіх слаях грамадзтва тагачаснай Рэчы Паспалітай. Згодна з ацэнкай польскіх гісторыкаў, на пачатку XVIII ст. непісьменнасьць сярод магнатаў і багатай шляхты складала 28%, сярэдняй шляхты — каля 40%, дробнай шляхты — 92% і насельніцтва гарадоў — 44%. Поўная непісьменнасьць ахапляла сялянскія масы[3].

## Адукацыйная камісія

Ува ўмовах нарастаючай пагрозы катастрофы, перад якой апынулася Рэч Паспалітая, прагрэсіўныя пласты грамадзтва ўсё больш усьведамлялі неабходнасьць рэформаў, на якія ўскладалі яны надзеі выратаваньня сьмяротна хворай дзяржавы. Адным з крокаў на гэтым шляху было стварэньне ў 1773 г. Адукацыйнай камісіі, якая ставіла мэту падняць асьвету ў краіне на больш высокі ўзровень.

На працягу дваццаці гадоў сваёй дзейнасьці Адукацыйная камісія правяла шэраг істотных рэформаў сярэдніх школаў, якія прызначаліся для шляхецкай моладзі. Упершыню ў гісторыі гэтыя школы набывалі сьвецкі характар, а таксама ўпершыню ўводзілася польская мова, якая да гэтай пары ў найлепшым выпадку выкарыстоўвалася ў якасьці дапаможнай пры вывучэньні лаціны[4].

Вялікую ўвагу зьвярнула Адукацыйная камісія на справу народнай асьветы. Ужо на адным зь першых сваіх пасяджэньняў яна разгледзела пытаньне разьвіцьця парафіяльных школаў, якія пасьля параўнальна значнага іх пашырэньня ў пэрыяд Контрарэфар-

---

[1] Тэрмін "Беласточчына" прымаецца ўмоўна і адпавядае, як правіла, тэрыторыі гістарычнай Беластоцкай вобласьці (Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы). — *Ю.Т.*

Некаторыя дадзеныя, па меры магчымасьці, прыводзяцца для шасьці паветаў Беластоцкага ваяводзтва паводле іх сучаснага адміністрацыйнага падзелу (Беластоцкі, Бельскі, Гайнаўскі, Дуброўскі, Сакольскі і Сямяціцкі).

Аўтар мае на ўвазе Беластоцкую вобласьць, створаную ў складзе Гарадзенскай губэрні ў 1808 г. У склад вобласьці ўваходзілі чатыры паветы: Беластоцкі, Бельскі, Драгічынскі і Сакольскі (у 1842 г. Драгічынскі павет далучаны да Бельскага). — *А.С.*

[2] У новай гістарыяграфіі існуе перакананьне, што да сярэдзіны XVIII ст. абазначылася тэндэнцыя да гаспадарчага ажыўленьня, а другая палавіна стагодзьдзя характарызуецца эканамічным ростам Рэчы Паспалітае, у тым ліку Вялікага Княства Літоўскага (адпаведная глава ў 3–м томе "Гісторыі Беларусі" (Менск, 2004 г.) называецца "Гаспадарчае ажыўленьне"). Палепшылася і дэмаграфічная сытуацыя. — *А.С.*

[3] Historia Wychowania. T. I. Warszawa: PAN, 1965. S. 575.

[4] Ibidem. S. 695.

мацыі былі на працягу XVIII ст. ужо вялікай рэдкасьцю. Нягледзячы на перадачу ў распараджэньне Камісіі маёмасьці ліквідаванага ў 1773 г. ордэну езуітаў, яе фінансавыя сродкі былі недастатковыя для ўтрыманьня парафіяльных школаў. У такіх умовах арганізацыя і ўтрыманьне гэтых школаў было даручанага мясцоваму духавенству і памешчыкам.

Вынікі намаганьняў Адукацыйнай камісіі ў галіне народнай асьветы былі ўсё ж далёка не задавальняючымі. Асноўным фактарам, які ўплываў адмоўна на яе разьвіцьцё, было тагачаснае сацыяльнае становішча сялянства. Шляхта, як падкрэсьлівае дасьледчык гісторыі школаў той эпохі Т. Вяжбоўскі, зыходзячы з пазыцыі кансэрватыўнага эгаізму, лічыла народную асьвету пагрозай для сваіх клясавых інтарэсаў, у сувязі з чым не была зацікаўлена ў матэрыяльнай падтрымцы гэтых школаў. З другога боку, зацікаўленьне прыгоннага сялянства справамі асьветы было таксама вельмі абмежаванае, паколькі яна не стварала непасрэднай магчымасьці паляпшэньня яго становішча[5].

У выніку памянёных сацыяльных прычын становішча народнай асьветы на Беласточчыне ў разгляданы пэрыяд было вельмі цяжкое. Параўнальна найбольшае пашырэньне атрымалі парафіяльныя школы на тэрыторыі цяперашніх Беластоцкага, Дуброўскага і Сакольскага паветаў, якія ўваходзілі ў склад Віленскай рыма–каталіцкай япархіі. Тлумачыцца гэта асабістым зацікаўленьнем віленскага біскупа Ігната Масальскага[6], які, будучы першым старшынём Адукацыйнай камісіі, аказваў некаторую матэрыяльную падтрымку школам у сваёй япархіі. Такім чынам, як паказваюць вынікі дасьледаваньняў Вяжбоўскага, у 1777 г. ува ўпамянутых трох паветах было 19 парафіяльных школаў з 612 вучнямі. Аднак існавалі яны вельмі нядоўга. Пасьля выхаду Масальскага з складу Камісіі гэтыя школы былі пазбаўленыя дзяржаўнай дапамогі, што прывяло да хуткага зьмяншэньня іх колькасьці. Так, напрыклад, у 1781 г. тут было толькі 9 школаў з 165 вучнямі, а ў наступным годзе — усяго 5 школаў з 55 вучнямі.

На тэрыторыі сёньняшніх Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў, дзе парафіяльныя школы не карысталіся фінансавай дапамогай Адукацыйнай камісіі, колькасьць іх была яшчэ меншая. На працягу 1783—1793 тут налічвалася 8 школаў — у Бельску, Драгічыне, Цеханоўцы, Сьледзянове, Далубове, Рудцы, Пярлееве і Гранным[7].

Становішча асьветы сярод уніяцкага насельніцтва Беласточчыны было ў той час таксама цяжкое, як і сярод рыма–каталіцкага. Парафіяльныя школы пры ўніяцкіх цэрквах узьнікалі па ініцыятыве больш адукаваных сьвятароў, галоўным чынам у гарадох і большых сельскіх парафіях (Кляшчэлі, Мілейчыцы, Клейнікі і іншыя), прычым таксама яны не карысталіся падтрымкай памешчыкаў. Характэрна, што нават Адукацыйная камісія адхіліла праект звароту да ўніяцкіх біскупаў у справе арганізацыі прыцаркоўных школаў[8].

*Вынікаў дзейнасьці як рыма–каталіцкіх, так і ўніяцкіх парафіяльных школаў на Беласточчыне, якія існавалі ў апошнія гады Рэчы Паспалітай, зразумела, нельга пераацэньваць. З увагі на невялікую іх колькасьць і кароткі час існаваньня яны мелі вельмі абмежаваны ўплыў на агульны стан пісьменнасьці насельніцтва гарадоў і вёсак Беласточчыны і не змаглі зьмяніць вяковага занядбаньня ў галіне асьветы. Аднак памылкова было б ігнараваць іх дзейнасьць. Зь іх сьценаў выйшлі пазьнейшыя слаўныя людзі*

[5] Wierzbowski T. Szkoły parafialne w Polsce i na Litwie za czasów Komisji Edukacji Narodowej (1773—1794). Kraków, 1921. S. 18.

[6] Масальскі Ігнат Якуб (1726—1794) — польска–беларускі асьветнік, тэоляг, рэлігійны дзяяч. З 1762 г. быў віленскім каталіцкім біскупам, адзін з ініцыятараў стварэньня і кіраўнік Адукацыйнай камісіі. Асудзіў паўстаньне Т. Касьцюшкі, за што быў пакараны паўстанцамі сьмерцю. — *А.П.*

[7] Ibidem.

[8] Ibidem. S. 23.

*Падляшша, як, напрыклад, тэоляг і мовазнаўца Міхал Баброўскі[9] з Волькі каля Кляшчэляў, гісторык Ігнат Даніловіч[9а] з Грынявічаў з–пад Бельску і іншыя.*

## Куратарыя Адама Чартарыйскага

Трэці разьдзел Рэчы Паспалітай (1975) закончыў яе існаваньне. Беласточчына, якая знаходзілася на сутыку двух этнічных абшараў, дзьвюх моў і рэлігійных абраднасьцяў, зноў, як у пэрыяд Люблінскай уніі, стала прадметам тэрытарыяльных таргоў паміж суседнімі дзяржавамі. Не падзяляючы лёсу іншых беларускіх і літоўскіх зямель, яна пераходзіць непасрэдна ў склад Прусіі. Толькі ў 1807 г. на падставе Тыльжанскай дамовы яна далучаецца да Расейскай імпэрыі, у складзе якой аж да 1843 г. яна вядома пад назвай Беластоцкай вобласьці з спэцыяльным адміністрацыйным статусам.

Страта Рэччу Паспалітай палітычнай незалежнасьці паўплывала на зьмену існай раней атмасфэры ў галіне народнай асьветы. Дарма што сацыяльнае становішча сялянства не зьмянілася, сярод шляхты і духавенства ўсё больш нарастае перакананьне, што разьвіцьцё асьветы, у тым ліку таксама і народнай, павінна адыграць важную ролю ў змаганьні за адбудову дзяржаўнасьці. Гэтыя ідэі ўспрымаюцца часткай мяшчанства і нават сялянства Беласточчыны.

Спэцыяльнай увагі заслугоўвае пры гэтым факт, што ў адносінах да далучаных да Расеі зямель былой Рэчы Паспалітай царскія ўлады на працягу доўгага часу ня мелі акрэсьленай палітычнай праграмы і ніякай мэты русіфікаваць гэтыя раёны ня ставілася. Як сьцьвярджаюць расейскія гісторыкі, царскія міністры Качубей[10], Завадоўскі[11], Разумоўскі[12], Галіцын[13], а таксама мясцовыя губэрнатары ня ведалі сапраўднай этнаграфіі “Заходняга краю” і лічылі яго часткай Польшчы. Яшчэ ў 1816 г. ў Вільні, Беластоку, Горадні, Менску, Віцебску і Магілёве адкрываліся аддзяленьні Расейскага біблійнага таварыства, якія з дазволу ўраду распаўсюджвалі сярод беларускага насельніцтва кнігі Сьвятога пісаньня на польскай мове[14]. На беларускіх землях у той час не было ніякага абмяжоўваньня польскай мовы і культуры з боку царскіх уладаў.

Гэтае становішча знайшло сваё адлюстраваньне асабліва ў галіне асьветы. Прыкла-

---

[9] Баброўскі Міхал (1784 (ці 1785) — 1848) — беларускі славіст і арыенталіст, дасьледаваў гісторыю славянскага кнігадрукаваньня. Быў адным зь першых творцаў беларускага нацыянальнага адраджэньня. — *А.П.*

Школьныя гады праф. М. Баброўскага і праф. І. Даніловіча прыпалі на пэрыяд прускага панаваньня, які характарызуецца эканамічным і культурным уздымам Беласточчыны. Баброўскі вучыўся спачатку ў піяраў, а сярэднюю адукацыю атрымаў у Беластоцкай гімназіі. Пра гэтыя ўстановы Ю. Туронак піша далей. — *А.С.*

[9а] Даніловіч Ігнат (1787—1843) — расейскі гісторык права, прафэсар Віленскага, Кіеўскага, Маскоўскага ўнівэрсытэтаў. Адмысловец па праве Вялікага Княства Літоўскага. — *А.П.*

[10] Качубей Віктар Паўлавіч (1768—1834) — расейскі дзяржаўны дзяяч, у 1802—1834 г. міністар унутраных справаў Расейскай імпэрыі. — *А.П.*

[11] Завадоўскі Пётар Васільевіч (1739—1812) — расейскі дзяржаўны дзяяч, у 1802—1810 г. міністар народнай асьветы Расеі. — *А.П.*

[12] Разумоўскі Аляксей Кірылавіч (1748—1822) — расейскі дзяржаўны дзяяч, у 1810—1816 г. міністар народнай асьветы Расеі. — *А.П.*

[13] Галіцын Аляксандар Мікалаевіч (1773—1844) — расейскі дзяржаўны дзяяч, у 1816—1824 г. міністар народнай асьветы Расеі. — *А.П.*

[14] Киприанович Г.Я. Жизнь Иосифа Семашки митрополита литовского и виленского и воссоединение западно–русских униатов с православной церковью в 1839 г. Вильна, 1893 г. С. 31—32.

дам гэтага ёсьць дзейнасьць князя Адама Чартарыйскага[15] — блізкага супрацоўніка і асабістага сябра цара Аляксандра I, пра што нельга не ўпамянуць нават пры павярхоўным аглядзе гісторыі асьветы на беларускіх і літоўскіх землях. У 1803 г. Чартарыйскага прызначаюць за першага куратара створанай ім Віленскай школьнай акругі. Вынікам яго больш як дваццацігадовай энэргічнай асьветніцкай дзейнасьці былі аднаўленьне і росквіт Віленскага ўнівэрсытэту, які адыграў вялікую ролю ў гісторыі навукі і культуры польскага, беларускага і літоўскага народаў. Значныя посьпехі былі дасягнутыя куратарыяй Чартарыйскага ў пашырэньні сеткі сярэдніх, а таксама парафіяльных (пачатковых) школаў.

Пасьля далучэньня Беласточчыны да Расейскай імпэрыі ўся школьная адміністрацыя ў гэтым раёне перадаецца ў веданьне Віленскай школьнай акругі. Асабліва значнае ажыўленьне ў галіне асьветы наглядаецца тут у 20–я гады XIX ст. Гэта быў, як вядома, пэрыяд вялікага культурнага ўздыму, пэрыяд рамантызму, філярэтаў і філяматаў, пэрыяд росквіту творчых сілаў Адама Міцкевіча[16].

У гэты час дзейнічае арганізаваная яшчэ прускімі ўладамі ў 1803 г. Беластоцкая гімназія, якая ў 1820 г. налічвала 138 вучняў і 11 настаўнікаў. На працягу 4–гадовага курсу вывучалася даволі шырокая праграма, якая ахоплівала такія прадметы, як рэлігія, навука маралі, мовы — расейская, польская, нямецкая, француская, лаціна і грэцкая, геаграфія, гісторыя, а таксама статыстыка, альгебра, геамэтрыя, навука аб гандлі, тапаграфія, маляваньне, сельская архітэктура і сельская гаспадарка, натуральная гісторыя і тэхналёгія. Амаль такая ж праграма навучаньня існавала ў 4–гадовай павятовай школе ў Драгічыне (ордэну піяраў) і крыху вузейшая праграма — у 3–гадовай павятовай школе ў Беластоку[17]. Акрамя пералічаных, існавалі яшчэ манастырскія школы ў Сямяцічах (ордэну місіянэраў), у суседняй Горадні (ордэну дамініканаў), Берасьці (уніяцкага базылянскага ордэну) і адкрытая ў 1805 г. губэрская гімназія ў Сьвіслачы.

Значны зрух у галіне народнай асьветы наглядаецца таксама ў мястэчках і вёсках Беласточчыны. Падобна, як у пэрыяд Адукацыйнай камісіі, яна знаходзілася далей у руках духавенства паасобных цэркваў. Парафіяльная структура на тэрыторыі сёньняшніх шасьці паветаў Беластоцкага ваяводзтва паказана ў табліцы 1.

Архіў куратарыі Чартарыйскіх зьмяшчае цікавы дакумэнт — справаздачу дырэкта-

**Табліца 1.** Колькасьць парафіяў і манастыроў на Беласточчыне ў 1820 г.[18]

| **Паветы** | **Рыма–каталіцкія** | **Уніяцкія** | **Праваслаўныя** |
|---|---|---|---|
| Беластоцкі | 9 | 13 | 1 |
| Бельскі | 10 | 16 | 1 |
| Гайнаўскі | 2 | 15 | – |
| Дуброўскі | 4 | 4 | – |
| Сакольскі | 12 | 6 | – |
| Сямяціцкі | 18 | 13 | 1 |
| **Разам** | **55** | **67** | **3** |

[15] Чартарыйскі Адам Ежы (1770—1861) — польска–расейскі грамадзкі і дзяржаўны дзяяч, уваходзіў у найбліжэйшае атачэньне расейскага імпэратара Аляксандра I, у 1803—1824 г. быў куратарам Віленскай навучальнай акругі. — *А.П.*

[16] Росквіт творчых сілаў А. Міцкевіча адносіцца на пэрыяд пасьля сканчэньня Віленскага ўнівэрсытэту. — *А.С.*

[17] Віленскі дзяржаўны ўнівэрсытэт, Навуковая бібліятэка, аддзел рукапісаў — VVUMBRS — F. 2 — KC 517 “Kopie korrespondencyj w czasie wizyty szkół Obwodu Białostockiego roku 1820 A.J. Lewickiego dyrektora szkół obwodu białostockiego”.

[18] Wąsicki Jan. Ziemie polskie pod zaborem pruskim. Prusy nowowschodnie (1795—1806). Poznań, 1963. S. 230—231; i Rocznik Tow. Przyj. Nauk w Wilnie 1908 (J. Kurczewski. Wiadomości o szkołach parafialnych w diecezji wileńskiej). S. 16—64.

ра Беластоцкай школьнай акругі А.Ю. Лявіцкага з праведзенай ім у 1820 г. візытацыі школаў у тагачасных Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах[19]. Яна ёсьць важным доказам новага стаўленьня розных пластоў грамадзтва Беласточчыны да справы народнай асьветы. Лявіцкі прыводзіць факты, якія сьведчаць аб шырокай грамадзкай падтрымцы школаў. Ён успамінае аб запісе графам Патоцкім на школу ў Боцьках (4,5 валок зямлі), упаўнаважаным графіні Дэмблінскай на школу ў Заблудаве (60 сярэбраных рублёў у год), а таксама рыма–каталіцкім духавенствам у Бранску, Боцьках, Каліноўцы, Новым Дворы, Сухаволі, Дабрыневе і іншых мясьцінах.

Зьмяніліся ня толькі погляды памешчыкаў і духавенства на народную асьвету, але таксама стаўленьне гарадзкога насельніцтва і сялянства да гэтай справы, аб чым Лявіцкі піша:

> W czasie objeżdżania miast i parafii mówiłem do nich (да іх — жыхароў. — *Ю.Т.*) o potrzebie koniecznej obowiązania się do czynienia corocznych składek na początkowy zakład szkół... Słuchali mowy mojej z ochotą i oświadczali, iż są najmocniej przekonani o potrzebie zaprowadzenia szkółek.

Адначасова ён успамінае аб адпаведных фундацыях на ўтрыманьне школаў, якія даваліся гарадзкімі ўправамі ў Беластоку, Бельску, Бранску, Янаве, Сухаволі, Саколцы, Сямяцічах і іншых.

На пачатку XIX ст. школьная дзейнасьць ажыўляецца таксама і ўва ўніяцкіх парафіях Беласточчыны. Немалы ўплыў на гэта меў арганізаваны яшчэ ў часе прускага панаваньня епархіяльны цэнтар Грэка–ўніяцкай царквы ў Супрасьлі, пры якім існавала базылянская духоўная сэмінарыя. Расейскі гісторык П. Баброўскі[20] сьцьвярджае, што менавіта ў пэрыяд існаваньня Супрасьлеўскай япархіі пры больш значных парафіях узьнікалі брацтвы і памнажаліся парафіяльныя школы[21].

Вышэйупамянутая справаздача Лявіцкага таксама падкрэсьлівае, што ўніяцкае насельніцтва Беласточчыны праяўляла ў 1820 г. ня меншую зацікаўленасьць асьветай, чым насельніцтва рыма–каталіцкага веравызнаньня. Ён прыводзіць цікавы факт, які заслугоўвае асаблівай увагі:

> Mieszkańcy wsi dóbr skarbowych należących do miasta Koronnego Kleszczel parafii x. Sosnowskiego (уніяцкай. — *Ю.Т.*) postanowili utrzymywać szkółki w czterech wsiach zwanych Kuzawa, Dasze, Dobrywoda i Czeremcha i obowiązali się nie tylko utrymywać nauczyciela i opatrywać szkółkę, lecz razem dopilnować, aby dzieci od ukończonego roku siódmego na naukę do tych szkółek były oddawane.

Гэтыя зьвесткі выклікаюць зразумелае хваляваньне. Яны паказваюць нейкі дзіўны — у нашым сёньняшнім уяўленьні — зрух, які адбываўся ў сьвядомасьці беларускага прыгоннага сялянства паўтара стагодзьдзя таму назад, і што больш цікава, у раёне, адсталым у эканамічным сэнсе. Зразумела, што калі насельніцтва такіх невялікіх вёсак, як Кузава, Дашы, Чарэмха ці Дабрывада, аказалася здольным арганізаваць школы, то тым большая была праўдападобнасьць іх існаваньня ў іншых, буйнейшых беларускіх вёсках. Акрамя названых школаў, цытаваная справаздача Лявіцкага зьмяшчае дадзеныя яшчэ аб парафіяльнай уніяцкай школе ў Кляшчэлях і Сухавольцах, а таксама аб намеры

[19] Kopie korrespondencyj w czasie wizyty szkół Obwodu Białostockiego roku 1820 A.J. Lewickiego...

[20] Баброўскі Павал Восіпавіч (1832—1905) — расейскі гісторык і этнограф, пляменьнік Міхала Баброўскага. Вывучаў гісторыю летапісаў, Уніяцкай царквы, сабраў багаты гісторыка–этнаграфічны і геаграфічны матэрыял да гісторыі Беларусі. — *А.П.*

[21] Бобровский П.О. Михаил Кириллович Бобровский (1785—1848). СПб., 1889. С. 35.

мясцовага пана Міхальскага адчыніць школу для дзяцей сваіх сялян у Маліньніках.

Нягледзячы на свой канфэсійны характар, тагачасныя парафіяльныя школы былі ўжо значна менш залежныя ад Царквы, чым у ранейшыя гістарычныя пэрыяды. Згодна з прадпісаньнем кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі, парафіяльныя школы ўсіх канфэсійных тыпаў у Беластоцкай вобласьці падпарадкоўваліся дырэктару Беластоцкай гімназіі, які быў іх візытатарам і наглядчыкам працэсу навучаньня. Такая арганізацыйная сыстэма дазваляла ўстанавіць як у рыма–каталіцкіх, так і ўва ўніяцкіх парафіяльных школах падобны напрамак навучаньня, згодна зь якім яны давалі вучням элемэнтарныя веды ў галіне рэлігіі, чытаньня і пісаньня, арытмэтыкі, а таксама пэўную практычную падрыхтоўку да сельскай гаспадаркі або рамёстваў.

Цікава адзначыць, што, нягледзячы на падабенства агульных выхаваўчых прынцыпаў, праграма навучаньня ўва ўніяцкіх парафіяльных школах была крыху іншая, чым у рыма–каталіцкіх. Розьніца выклікалася ў першую чаргу іншасьцю абрадаў абедзьвюх Цэркваў і выражалася галоўным чынам у навучаньні мовы. Параўнальна шырокае выкарыстоўваньне польскай мовы ў дзейнасьці Рыма–каталіцкай царквы ў Беластоцкай вобласьці (значная частка набажэнстваў, казані, школьная навука рэлігіі і інш.), побач зь вялікім яе грамадзка–культурным значэньнем, уплывала на тое, што польская мова ў рыма–каталіцкіх школах была адным з асноўных прадметаў навучаньня.

Польская мова выкладалася як прадмет таксама і ўва ўніяцкіх парафіяльных школах Беласточчыны. Аднак, з пункту гледжаньня Царквы, навучаньне польскай мове ў гэтых школах не было дастатковае для рэлігійнага выхаваньня вучняў і асабліва для іх падрыхтоўкі да ўдзелу ў набажэнствах, якія адбываліся на царкоўнаславянскай мове. Адсюль вынікала неабходнасьць навучаньня царкоўнаславянскай мовы, якая ў царкоўнай сфэры спаўняла падобную ролю, як польская мова ў рыма–каталіцкіх школах[22]. Такім чынам, уніяцкія парафіяльныя школы Беластоцкай вобласьці мелі ў пэўным сэнсе дзьвюхмоўны характар, сьведчаньнем чаго ёсьць спамянутая справаздача візытатара А.Ю. Лявіцкага, якая зьмяшчае наступную зьвестку:

> ...w drugiej szkółce pry ruskiej cerkwi uczą się dzieci czytać i pisać *po polsku i po słowiańsku* (падкрэсьленьне аўтара. — *Ю.Т.*) oraz początków arytmetyki, a nauczycielem jest cerkiewny kantor (пеўчы. — *Ю.Т.*). Pleban x. Sosnowski daje sam naukę religii i ogrodnictwa praktycznego w ogrodzie swoim.

Пытаньне мовы навучаньня ў школах этнічна неаднароднай Беластоцкай вобласьці было абумоўлена шэрагам фактараў, сярод якіх найбольшае значэньне мелі арганізацыйны ўзровень школаў, іх царкоўная прыналежнасьць і, нарэшце, родная мова іх навучэнцаў. Нягледзячы на знаходжаньне ў складзе Расейскай імпэрыі, польская мова на пачатку XIX ст. захоўвала вялікае значэньне ў працэсе навучаньня ў школах усёй Віленскай школьнай акругі, у тым ліку і на Беласточчыне. На гэтай мове вяліся заняткі ня толькі ў Віленскім унівэрсытэце, але і ў большасьці сярэдніх сьвецкіх і рыма–каталіцкіх манастырскіх навучальных установаў, між іншым, у Беластоцкай гімназіі і павятовых вучэльнях у Беластоку і Драгічыне. Па–польску вялося навучаньне таксама ў рыма–каталіцкіх парафіяльных школах.

Беларуская мова, якая да канца XVI ст. была афіцыйнай мовай на Падляшшы, пасьля яго далучэньня да Польшчы (1569 г.) хутка страчвала сваё значэньне ў публічным жыцьці гэтага раёну. Яшчэ да 1591 г. гарадзкія кнігі ў Бельску пісаліся “па–руску”, на працягу наступных пятнаццаці гадоў — “па–руску” і па–польску, а ад 1606 г. — толькі

[22] Польская мова выконвала дапаможную ролю ў літургічнай практыцы Рыма–каталіцкай царквы, а ў Грэка–ўніяцкай царкве на царкоўнаславянскай мове адпраўляліся ўся літургія і ўсе трэбы. Жывая мова народу выкарыстоўвалася ў казанях і навучаньні, пра што аўтар піша далей. — *А.С.*

па–польску[23]. Такім чынам, на Бельшчыне польская мова выціснула ў афіцыйнай сфэры беларускую мову амаль на цэлае стагодзьдзе раней, чым у Вялікім Княстве Літоўскім (1697 г.). У разгляданы намі пэрыяд — у першыя дзесяцігодзьдзі XIX ст. — яна была мовай сялянства, дробнапамеснай шляхты і бяднейшага мяшчанства. Публічнае значэньне беларуская мова яшчэ захоўвала ў вялікай меры ў дзейнасьці Грэка–ўніяцкай царквы.

Ужываньне беларускай мовы, ці, дакладней, — яе мясцовых гаворак, у царкоўнай сфэры было істотным фактарам, які абумоўліваў яе прымяненьне і ў царкоўных школах. Як паказваюць гістарычныя крыніцы[24], яна выкарыстоўвалася ў пэўнай ступені нават у сярэдніх школах базылянскага ордэну, у якіх асноўны кантынгент вучняў складалі дзеці беларускай дробнапамеснай шляхты, духавенства і мяшчан. Ужываньне беларускай мовы ва ўніяцкіх парафіяльных школах было яшчэ больш пашырана, чым у базылянскіх школах вышэйшага тыпу. Вядома, яна не была спэцыяльным прадметам навучаньня, але мовай камунікацыйнай, зразумелай для вучняў. Дарэчы, інакш і быць не магло: цяжка ўявіць, што сялянскія дзеці ў Дашах ці Кузаве паўтара стагодзьдзя таму назад ведалі польскую мову лепш, чым цяпер.

Якія былі агульныя вынікі асьветнага руху на Беласточчыне ў 20–я гады XIX ст.? Каштоўным, хаця няпоўным паказчыкам тут могуць паслужыць статыстычныя дадзеныя, якія прыводзіць Лявіцкі ў названай справаздачы (гл. табліцу 2).

З прыведзенай табліцы вынікае, што ва ўсіх 23 пералічаных школах навучалася ў

**Табліца 2.** Колькасьць вучняў у школах Беластоцкай вобласьці ў 1820 г.

| Школа | | Вучняў |
|---|---|---|
| 1. Беластоцкая гімназія | | 138 |
| 2. Беластоцкая павят. школа | | 285 |
| 3. Драгічынская павят. школа | | 100 |
| 4. Беласт. жаночы пансіён | | 14 |
| **Парафіяльныя школы**[a] | | |
| 5. Беласток | (рк) | 15 |
| 6. Беласток | (лют) | 10 |
| 7. Бельск | (?) | 64 |
| 8. Васількоў | (рк) | 11 |
| 9. Гонёндз | (рк) | 57 |
| 10. Дашы | (ун) | 28 |
| 11. Дабрывада | (ун) | 21 |
| 12. Заблудаў | (рк) | 35 |
| 13. Кляшчэлі | (рк) | 79 |
| 14. Кляшчэлі | (ун) | 6 |
| 15. Кнышын | (рк) | 16 |
| 16. Кузава | (ун) | 30 |
| 17. Мельнік | (?) | 15 |
| 18. Сухавольцы | (ун) | 20 |
| 19. Сухаволя | (рк) | 37 |
| 20. Сямяцічы | (рк) | 34 |
| 21. Тжцяннэ | (рк) | 35 |
| 22. Хорашч | (рк) | 45 |
| 23. Чаромха | (ун) | 23 |
| Разам | | 1118 |

[a] Парафіяльныя рыма–каталіцкія школы абазначаныя — рк, уніяцкія — ун і лютэранскія — лют.

[23] Jabłonowski A. Polska XVI wieku. T. 6. Warszawa, 1910. Część III. S. 226.

[24] Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мінск, 1968. С. 85; Stankiewič Ad. Biełaruskaja mowa u škołach Biełarusi XVI i XVII st. Wilnia, 1928. S. 17—18; Авенариус Н.П. Дрогичин Надбужанский и его древности. СПб., 1890.

1820 г. 1118 вучняў. Гэтыя лічбы ў параўнаньні з сучасным станам асьветы могуць здавацца вельмі малыя. Аднак у той час быў гэта ўзровень, не сустраканы ніколі раней у гісторыі народнай асьветы на Беласточчыне. Для параўнаньня варта дадаць, што ў той самы час ува ўсіх школах Віленскай школьнай акругі навучалася 21 174 вучні, а ўва ўсёй Расейскай імпэрыі — 61 918 вучняў[25].

Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што ў справаздачу Лявіцкага не былі ўключаны школы, якія маглі ў той самы час існаваць у парафіях Крынкі, Мастаўляны, Ялоўка, Старое Ляўкова, Белавежа, Дубіны, Рагачы, Мілейчыцы і іншых, якія не ўваходзілі ў склад Беластоцкай вобласьці. Акрамя гэтага, упамянутыя зьвесткі хутчэй не ахопліваюць усіх школаў у самай Беластоцкай вобласьці. Ужо ў справаздачы новага візытатара Твардоўскага за 1821 г. падаюцца назвы іншых школаў, як, напрыклад, гарадзкая школа ў Бельску і шэраг парафіяльных школаў — у Саколцы, Ружанастоку, Бранску і Боцьках.

Гісторыя народнай асьветы на Беласточчыне ў пачатку XIX ст. вывучана да гэтай пары вельмі недастаткова. Шматлікія цікавыя яе старонкі чакаюць яшчэ сваіх дасьледчыкаў. Аднак прыведзеныя тут факты, большасьць якіх публікуецца ўпершыню, ёсьць красамоўным сьведчаньнем таго, што *Беласточчына паўтара стагодзьдзя таму назад не была ўжо такой адсталай у галіне асьветы, як агульна мяркуецца*. Асаблівую цікавасьць уяўляе дзейнасьць тагачасных царкоўных школаў, як папярэднікаў сучаснага беларускага школьніцтва на Беласточчыне.

## Паміж паўстаньнямі

Няўдача паўстаньня 1831 г., мэтай якога было аднаўленьне незалежнасьці Польшчы, пацягнула за сабой рэпрэсіі царскіх уладаў, накіраваныя галоўным чынам супраць тых установаў, дзейнасьць якіх яўна пярэчыла ўзьніклым на пачатку 30–х гадоў русіфікатарскім намерам ураду.

Сьледам за закрыцьцём Віленскага ўнівэрсытэту (1832 г.) царскія ўлады прымаюць шэраг пастаноў, якія датычаць дзейнасьці школаў у заходніх губэрнях[26]. На іх падставе ліквідаваліся рыма–каталіцкія манастырскія школы, а навучаньне ў парафіяльных школах дазвалялася толькі сьвецкім настаўнікам (акрамя прадмету рэлігіі). Выключна важнае значэньне мела пры гэтым патрабаваньне таго, каб у далейшым навучаньне ў школах адбывалася толькі на расейскай мове.

У выніку гэтых мер наступаюць істотныя зьмены ў становішчы школаў Беластоцкай вобласьці. Так, напрыклад, у Беластоцкай гімназіі ўводзіцца ўпершыню расейская мова навучаньня. Ліквідуецца Драгічынская 4–гадовая школа ордэну піяраў, замест якой адкрываецца расейская павятовая школа. Адначасова значна зьмяншаецца колькасьць рыма–каталіцкіх парафіяльных школаў.

Цікава заўважыць, што названыя распараджэньні фармальна не датычылі ўніяцкіх школаў. Тым ня менш яны падзяляюць лёс рыма–каталіцкіх школаў найхутчэй з тае прычыны, што навучаньне ў іх не адбывалася на расейскай мове. Такім чынам, ні карыстаньне мясцовымі няпольскімі дыялектамі, ні нават царкоўнаславянская мова не ратавала тых школаў ад закрыцьця.

Іншай важнай падзеяй, якая наступіла ўва ўмовах жорсткай рэакцыі Мікалая І і вынікала непасрэдна з сыстэмы царскіх рэпрэсіяў пасьля паўстаньня, была *ліквідацыя царкоўнай уніі* (1839 г.). Царскі ўрад, які яшчэ ў 20–я гады XIX ст. ставіўся абыякава да праектаў далучэньня ўніятаў да Праваслаўнай царквы, пасьля лістападаўскага паўстаньня ацэнь-

---

[25] Bieliński J. Uniwersytet Wileński. T. I. Kraków, 1899—1900. S. 272.

[26] Studnicki Wł. Polityka Rosyi względem szkolnictwa zaboru rosyjskiego. Kraków, 1906. S. 69—75; Smoleński Wł. Dzieje narodu polskiego. 1919. S. 511—512; История БССР. Минск, 1954. Т. I. С. 244.

вае ўжо гэтае мерапрыемства як важны сродак у ажыццяўленьні сваёй русіфікатарскай палітыкі. Расейскі і праваслаўны дасьледчык гісторыі уніі ў Беларусі М.Д. Ізьвекаў[27], якога цяжка падазраваць у тэндэнцыйнасьці, піша наконт гэтага наступнае: “Правительство видело в этом воссоединении вернейшее средство к восстановлению в них (г.зн. у беларускіх губэрнях. — *Ю.Т.*) почти совсем утраченного ими русского облика”[28].

У Беластоцкай вобласьці ліквідацыя уніі выклікала значныя хваляваньні сярод насельніцтва, абвастраючы яшчэ больш грамадзкія супярэчнасьці ў гэтым раёне. Значная частка ўніяцкага духавенства Беласточчыны шукала ў цара (!) абароны перад перасьледаваньнем іх веры[29]. Адначасова пашыраліся пратэсты сярод сялянства такіх мясцовасьцяў, як Чыжы, Новае Беразова, Кляшчэлі, Клейнікі і інш., і духавенства ў Драгічыне і Бранску зьвярталася ў паліцыю з просьбай паўплываць на народ, каб ён наведваў праваслаўныя цэрквы[30].

Неабходна пры гэтым заўважыць, што далучэньне да праваслаўя яшчэ больш пагоршыла цяжкае эканамічнае становішча беларускага прыгоннага сялянства, усклаўшы на яго плечы яшчэ адну павіннасьць. Як сьведчыць іншы расейскі дасьледчык уніі на беларускіх землях Р.Я. Кіпрыяновіч[31],

> на барщинного крестьянина наложили обязанность нести новую барщину в пользу духовенства, непонятную народу до времени воссоединения с православной церковью: его заставляли обрабатывать священницкие земли, давать причту дом, хлеб, топливо, строить церкви. Духовенство, утратив то, что получало во времена унии от щедрот помещика, обратилось теперь к народу и стало вынуждать плату за требы с прихожан[32].

*Рост сацыяльнага, рэлігійнага і нацыянальнага прыгнёту вельмі адмоўна адбіўся на стане народнай асьветы на Беласточчыне.* Урадавыя ўказаньні аб адкрыцьці расейскіх школаў у канкрэтных умовах Беластоцкай вобласьці амаль не маглі быць выкананыя, таму што, па–першае, няшмат было ў той час настаўнікаў, якія маглі весьці навучаньне на мала тады яшчэ вядомай для іх расейскай мове; па–другое, у палітычных і сацыяльных умовах, якія характарызаваліся ростам царскіх рэпрэсіяў, ні настаўнікаў, ні насельніцтва не прыцягвала прапанаваная царызмам расейская школа. Не існавалі таксама магчымасьці арганізаваць гэтыя школы, выкарыстоўваючы настаўнікаў зь вялікарускіх губэрняў, дзе не хапала іх нават для ўласных школаў.

У выніку упамянутых умоў, школьная справа на Беласточчыне перажывала аж да Студзеньскага паўстаньня глыбокі застой. Яшчэ ў 1857 г. ува ўсіх школах Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў навучалася менш моладзі, чым у 1820 г. — у час куратарыі Чартарыйскага. Пэўнае павелічэньне колькасьці вучняў у 1860 г. наступіла ў выніку арганізацыі дзьвюх дзяржаўных школаў — Пісарска–егерскай вучэльні ў Саколцы, дырэктарам якой быў вядомы арганізатар Студзеньскага паўстаньня В. Урублеўскі[33], а таксама Інстытуту шляхетных дзяўчат у Беластоку. Асабліва выразным заняпадам вылучалася

[27] Ізьвекаў Мікалай Дзьмітрыевіч (1858 — ?) — расейскі пісьменьнік, протаярэй, дасьледчык гісторыі Праваслаўнай царквы і царкоўнай уніі на тэрыторыі Беларусі. — *А.П.*

[28] Извеков Н.Д. Исторический очерк состояния Православной церкви в Литовской епархии (1839—1899). Москва, 1899. С. 280.

[29] Киприанович Г.Я. Жизнь И. Семашки… С. 122.

[30] Тамсама, с. 122—126, 238 і 289.

[31] Кіпрыяновіч Рыгор Якаўлевіч (1846 — ?) — расейскі духоўны пісьменьнік, дасьледчык царкоўнай гісторыі на тэрыторыі Беларусі. — *А.П.*

[32] Тамсама, с. 280—281.

[33] Урублеўскі Валер (1836—1908) — адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863—1864 г. у Беларусі, паплечнік Кастуся Каліноўскага. Пасьля падаўленьня паўстаньня эміграваў у Францыю, быў генэралам Парыскай камуны.

народная асьвета. Яшчэ напярэдадні Студзеньскага паўстаньня колькасьць вучняў у парафіяльных школах і школах, арганізаваных міністэрствам дзяржаўных маёмасьцяў, не перавышала ўзроўню 1820 г. (гл. табліцу 3).

Такім чынам, паліцэйска–адміністрацыйныя мэтады, якія прымяняліся царызмам у пэрыяд паміж Лістападаўскім і Студзеньскім паўстаньнямі, не давалі пакуль што спадзяваных вынікаў. Заняпад народнай асьветы сур'ёзна стрымліваў пашырэньне расейскай пісьменнасьці сярод насельніцтва Беласточчыны, а мэханічна праведзеная ліквідацыя Уніі стварыла толькі фармальнае праваслаўе, якое яшчэ праз некалькі дзесяцігодзьдзяў не змагло стаць апорай царызму ў яго русіфікатарскай дзейнасьці.

Новае становішча не азначала, аднак, ідэйнай пустаты. У каталіцкіх асяродзьдзях Беласточчыны пашыраецца тайнае польскае навучаньне, чаму выдатна дапамагала ніжэйшая мясцовая адміністрацыя, якая амаль поўнасьцю складалася з польскай шляхты[34].

Адначасова на руінах Уніі, асабліва ў мяшаных асяродзьдзях, пасьпяхова ўзрастаюць уплывы Рыма–каталіцкай царквы. Аб мізэрных выніках русіфікатарскіх намаганьняў царскіх уладаў на Беласточчыне сьведчыць той факт, што на працягу цэлага паўвеку яе знаходжаньня ў складзе Расейскай імпэрыі тут ня ўзьнікла ні адна расейская кнігарня[35].

## Дэвіз "самадзяржаўе, праваслаўе, народнасьць" у дзеяньні

Вынікам рэакцыйнай палітыкі царызму было Студзеньскае паўстаньне 1863 г. Беласточчына, падобна як і ўся Гарадзенская губэрня, была абшарам асабліва актыўнага паўстанчага руху. Тут дзейнічаў слаўны яго правадыр Кастусь Каліноўскі, адсюль разыходзіліся ў народ бунтарскія заклікі "Мужыцкай праўды".

**Табліца 3.** Колькасьць школаў і вучняў у б. Беластоцкай вобласьці[36]

| | 1820 | | 1857 | | 1860 | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | школаў | вучняў | школаў | вучняў | школаў | вучняў |
| Разам | 23 | 1118 | 23 | 817 | 23 | 1297 |
| у тым ліку: | | | | | | |
| Беластоцкі павет | 11 | 661 | 8 | 382 | }19 | }1100 |
| Бельскі павет | 11 | 420 | 12 | 402 | | |
| Сакольскі павет | 1 | 37 | 3 | 33 | 4 | 197 |
| | | | | | | |
| у тым ліку: | | | | | | |
| Гімназія | 1 | 138 | 1 | 250 | 1 | 516[а] |
| Павятовыя школы | 2 | 385 | 1 | 72 | 1 | 70 |
| Парафіяльныя школы | 19 | 581 | 12 | 358 | 12 | 389 |
| Сельскія[б] школы | – | – | 8 | 120 | 7 | 132 |
| Пансіёны для дзяўчат | 1 | 14 | 1 | 17 | 1 | 95[в] |
| Пісарска–егерская школа | – | – | – | – | 1 | 95 |

[а] улучна з падрыхтоўчымі клясамі
[б] Міністэрства дзяржаўных маёмасьцяў
[в] Інстытут шляхетных дзяўчат

[34] Аўтар, відавочна, мае на ўвазе і спольшчаную мясцовую шляхту. — *А.С.*

[35] Корнилов Н.И. Памяти графа Михаила Николаевича Муравьева. К истории Виленского учебного округа за 1863—1868 гг. СПб., 1898. С. 135.

[36] Дадзеныя за 1820 г. падаюцца за спамянутай справаздачай А.Ю. Лявіцкага, дадзеныя за 1857 і 1860 г. — паводле выданьня: Бобровский П.О. Гродненская губерния. Ч. II. Приложения. Табліцы 48 і 59. СПб., 1863.

Назначаны царом Мікалаем I новы генэрал–губэрнатар “Паўночна–заходняга краю” М.М. Мураўёў[37] — галоўны рэжысэр крывавага здушэньня паўстаньня — пакінуў па сабе ў народзе вечную няслаўную памяць вешальніка. Аднак ці толькі вешальнікам быў Мураўёў? Зь імем Мураўёва спалучаецца цалкам новы курс палітыкі царызму ў Беларусі, накіраваны на поўнае абрусеньне яе насельніцтва.

Студзеньскае паўстаньне даказала, што толькі адміністрацыйна–паліцэйскія меры, якія прымяняліся да гэтай пары, былі маланадзейнымі сродкамі ў палітыцы царызму. З другога боку, абаперціся на іншыя сродкі, у першую чаргу ідэйнага характару, было немагчыма, бо яны тады яшчэ амаль не існавалі.

У такіх умовах ува ўсіх беларуска–літоўскіх губэрнях пачынаецца ажыцьцяўленьне выпрацавнай Мураўёвым цэлай сыстэмы мерапрыемстваў, якая праводзілася пад лёзунгам “самадзяржаўя, праваслаўя і народнасьці”. На месца шматлікіх польскіх буйных землеўладальнікаў, маёмасьць якіх канфіскуецца, насаджваюцца новыя, расейскія памешчыкі. Адначасова ў ход пускаюцца казкі аб дабрадзействах цара, які вызваліў беларускае сялянства з прыгоннага ярма польскіх памешчыкаў.

У мураўёўскай праграме дзейнасьці асабліва важнае месца займала дэзынтэграцыя мясцовага насельніцтва і, у прыватнасьці, распальваньне антаганізмаў паміж насельніцтвам праваслаўнага і каталіцкага веравызнаньняў. Дасягалася гэта шляхам беспрэцэдэнтнага перасьледу Каталіцкай царквы ў мяшаных канфэсійных асяродзьдзях. Царскія ўлады ліквідавалі на тэрыторыі сёньняшніх Беластоцкага, Бельскага, Дуброўскага, Гайнаўскага, Сакольскага і Сямяціцкага паветаў 22 касьцёлы, зьмяншаючы такім чынам агульную іх колькасьць у гэтым раёне амаль на 40%[38].

Адначасова палавіна ліквідаваных на Беласточчыне касьцёлаў была перададзена ў распараджэньне праваслаўных епархіяльных уладаў, якія ператваралі іх у цэркавы. Ня трэба, бадай, тлумачыць, якія пачуцьці выклікалі гэтыя мерапрыемствы сярод каталіцкага насельніцтва. Яны зьвярталіся ня толькі супраць царскіх уладаў, але таксама супраць мясцовага, у многіх выпадках аднамоўнага, праваслаўнага насельніцтва. Няцяжка зразумець палітычныя матывы гэтых правакацыяў. Супрацьпастаўляючы абедзьве канфэсійныя групы насельніцтва, царскія ўлады імкнуліся паставіць праваслаўнае насельніцтва ў становішчы, у якім яно было б вымушана шукаць апоры і падтрымкі ў царызму, што выступаў у ролі абаронцы праваслаўя.

Ува ўмовах правакаваных унутраных антаганізмаў, забароны на амаль чвэрць стагодзьдзя (1863—1889) беларускага кнігадрукаваньня і іншых мерапрыемстваў у палітыцы абрусеньня царскія ўлады пачынаюць энэргічную дзейнасьць у галіне асьветы. Важным аб’ектыўным фактарам, які садзейнічаў яе разьвіцьцю пасьля Студзеньскага паўстаньня, была, несумненна, адмена прыгоннага ладу і паступовы пераход эканомікі на шлях капіталізму. Аднак ня меншае значэньне ў разьвіцьці асьветы меў у той час

[37] М. Мураўёў быў віленскім, гарадзенскім і ковенскім генэрал–губэрнатарам. У 1860 г. да генэрал–губэрнатарства была далучана Менская губэрня, а ў 1863–м — Віцебская і Магілёўская. З гэтага часу віленскага генэрал–губэрнатара называлі галоўным начальнікам Паўночна–заходняга краю.

[38] Царскія ўлады закрылі, разбурылі або ператварылі на праваслаўныя цэрквы наступныя каталіцкія касьцёлы на Беласточчыне: у Васількове (1867 г.), Ялоўцы (1866 г.), Каралёвым Мосьце (1863 г.), Бельску (1866 г.), Нараўцы (1866 г.), Кляшчэлях (1866 г.), Ліпску (1866 г.), Ружанастоку (1866 г.), Шудзялаве (1866 г.), Сідэрцы (1850 г.), Клімаўцы (1866 г.), Карповічах (1865 г.), Драгічыне (адзін у 1831 г. і другі — у 1864 г.), Няміраве (1866 г.), Мельніку (1866 г.), Мілейчыцах (1866 г.), Вілінаве (1866 г.), Дзеткавіцах (1867 г.), Садах (1865 г.), Гранным (1866 г.) і Сьледзянове (1866 г.). Гл.: Орловский Е. Судьбы православия в связи с историей латинства и унии в Гродненской губернии в XIX стол. Гродно, 1903; Catalogus ecclesiarum et cleri archidioecesis vilnensis. Wilno, 1939; Elenchus ecclesiarum et cleri dioecesis pinscensis. Pińsk, 1939; Kublicki P. Bojownicy — kapłani za sprawę kościoła i ojczyzny w latach 1861—1915. Sandomierz, 1938. Część II. T. IV.

таксама факт, што яна была адным з найбольш эфэктыўных інструмэнтаў у русіфікатарскай дзейнасьці царызму. Новы куратар Віленскай школьнай акругі Н.І. Карнілаў — адзін з найбольш кампэтэнтных царскіх чыноўнікаў — так характарызаваў у 1864 г. ролю і задачы расейскіх школаў:

> Здешние училища, независимо от педагогического, имеют важное политическое значение как орудия противодействия местным враждебным государству элементам и для образования народа на незыблемых началах веры и преданности к престолу и отечеству[39].

Задачы, якія ставіліся перад тагачасным школьніцтвам, абумовілі выключна хуткі яго рост у Гарадзенскай губэрні, аб чым сьведчаць дадзеныя, прыведзеныя ў табліцы 4.

Калі ў 1856 г. ува ўсіх пачатковых і сярэдніх агульнаадукацыйных школах Гарадзенскай губэрні налічвалася толькі 3,1 тыс. вучняў, то ўжо ў 1865 г. іх колькасьць узрасла да 9,3 тыс., у 1872 г. — да 17,5 тыс., а ў 1882 г. дасягнула 27,7 тыс. Нягледзячы на выключна высокія тэмпы росту, дасягнутыя вынікі ўсё ж не былі задавальняючыя. Таму ў 1884 г. да школьнай справы была прыцягнута Праваслаўная царква. У кароткі час пры ўсіх праваслаўных парафіях арганізуюцца царкоўна–прыходзкія школы і школы граматы, якія падпарадкоўваюцца Сьвяшчэннаму сыноду. Факт гэты садзейнічае далейшаму хуткаму пашырэньню асьветы. Пад канец XIX ст. колькасьць вучняў у пачатковых і сярэдніх агульнаадукацыйных школах Гарадзенскай губэрні складала ўжо 49,4 тыс., а ў 1910 г. дасягнула 88 тыс.

Неабходна падкрэсьліць, што, зыходзячы з упамянутых ідэйных указаньняў, царскія школьныя ўлады, як міністэрства школьнай асьветы, так і Сьвяшчэнны сынод, найбольшую ўвагу зьвярталі на разьвіцьцё народнай асьветы, у прыватнасьці — на пашырэньне ў народзе расейскай пісьменнасьці і ўмацаваньне праваслаўнай веры, а не на ўсебаковую адукацыю маладога пакаленьня. Сьведчыць аб гэтым выразны застой, які наглядаўся ў галіне сярэдніх школаў. Колькасьць гэтых школаў, што існавалі ў Гарадзенскай губэрні ў 1872 г. (рэальная вучэльня і Інстытут шляхетных дзяўчат у Беластоку, дзьве гарадзенскія гімназіі і берасьцейская прагімназія), не зьмянілася аж да 1904 г.

Выключна незадавальняючае становішча было таксама ў галіне т.зв. спэцыяльных школаў, сярод якіх на ўвагу заслугоўваюць арганізаваныя ў 1876 г. настаўніцкая сэмі-

**Табліца 4.** Разьвіцьцё агульнаадукацыйнай асьветы ў Гарадзенскай губ.[40]

| Год | Разам[а] | | У тым ліку школы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | сярэднія | | пачатковыя | |
| | школаў | вучняў | школаў | вучняў | школаў | вучняў |
| 1856 | 90 | 3082 | – | – | – | – |
| 1865 | 230 | 9301 | 2 | 342 | 228 | 8959 |
| 1872 | 454 | 17482 | 5 | 1005 | 449 | 16477 |
| 1883 | 554 | 27754 | 5 | 1409 | 549 | 26345 |
| 1886 | 795 | 35259 | 5 | 1202 | 790 | 34057 |
| 1896 | 1280 | 49420 | 5 | 1355 | 1275 | 48065 |
| 1905 | 1684 | 84821 | 7 | 2791 | 1677 | 82030 |
| 1910 | 1477 | 88599 | 25 | 6674 | 1452 | 81925[б] |

[а] без габрэйскіх канфэсійных школаў

[б] бяз вучняў 8 прыватных школаў

[39] Корнилов Н.И. Памяти графа М.Н. Муравьёва… С. 37.

[40] Статистические таблицы Российской империи за 1856 г. СПб., 1858; Корнилов Н.И. ...; Статистический временник Российской империи. Серия II. Вып. 16 і серия III. Вып. 8. СПб., 1879 і 1886; Статистика Российской империи. Вып. 10. СПб., 1890 і Ежегодник России 1906 і 1911 г.

нарыя ў Сьвіслачы, створаная ў 1887 г. двухклясная царкоўна–настаўніцкая школа ў Трасьцянцы Бельскага пав., санітарная і рамесная школы ў Горадні і праваслаўная духоўная сэмінарыя ў Жыровічах.

Хуткае разьвіцьцё асьветы ў Гарадзенскай губэрні пасьля Студзеньскага паўстаньня не было, зразумела, нейкім выключэньнем. Значнае яе разьвіцьцё наглядалася таксама ўва ўсёй Расеі, што паказваюць дадзеныя ў табліцы 5.

Як сьведчаць гэтыя дадзеныя, у пэрыяд 1856—1910 г. ува ўсіх 50 губэрнях эўрапейс-

**Табліца 5.** Колькасьць вучняў у пачатковых і сярэдніх агульнаадукацыйных школах[41] (у тысячах)

| | **1856** | **1872** | **1883** | **1905** | **1910** |
|---|---|---|---|---|---|
| Эўрапейская Расея[а] | 432,9 | 967,2 | 1809,6 | 4554,6 | 5380,5 |
| у тым ліку: | | | | | |
| Беларускія губэрні[б] | 17,8 | 71,4 | 89,9 | 367,8 | 471,5 |
| у тым ліку: | | | | | |
| Гарадзенская губэрня | 3,1 | 17,6 | 27,9 | 84,8 | 88,6 |

[а] 50 эўрапейскіх губэрняў; безь нехрысьціянскіх канфэсійных школаў (мусульманскіх і габрэйскіх)
[б] Віленская, Віцебская, Гарадзенская, Менская і Магілёўская

кай часткі Расеі колькасьць вучняў у пачатковых і сярэдніх агульнаадукацыйных школах павялічылася ў 12 разоў, у пяці губэрнях "Паўночна–заходняга краю" яна ўзрасла ў 26 разоў, а ў Гарадзенскай губэрні — у 29 разоў. *Такім чынам, асьвета на Гарадзеншчыне разьвівалася ў шмат хутчэйшым тэмпе ў параўнаньні як зь беларускімі губэрнямі, так і з эўрапейскай Расеяй у цэлым.*

Яшчэ хутчэй разьвівалася асьвета ў заходняй частцы Гарадзенскай губэрні — на тэрыторыі сёньняшняй Беласточчыны, аб чым сьведчыць рост школьнай сеткі ў гэтым раёне (гл. табліцу 6).

Калі ў 1850 г. у пералічаных паветах Беласточчыны існавала толькі 13 пачатковых

**Табліца 6.** Разьвіцьцё школьнай сеткі на Беласточчыне[42]

| **Паветы** | **1850** | **1860** | **1865** | **1872** | **1897** |
|---|---|---|---|---|---|
| Беластоцкі | 1 | 3 | 11 | 16 | 85 |
| Бельскі | 2 | 2 | 13 | 14 | 84 |
| Гайнаўскі | 4 | 5 | 10 | 11 | 84 |
| Дуброўскі | 2 | 2 | 3 | 3 | 12 |
| Сакольскі | 1 | 1 | 6 | 9 | 40 |
| Сямяціцкі | 3 | 5 | 10 | 10 | 82 |
| Разам[а] | 13 | 18 | 53 | 63 | 337 |

[а] без габрэйскіх канфэсійных школаў і дзьвюх сярэдніх школаў у Беластоку

школаў, то ўжо ў 1865 г. іх колькасьць узрасла да 53, у 1872 г. — да 63, а ў канцы XIX ст. павялічылася да 387, дасягаючы такім чынам прыблізна 2/3 сучаснай сеткі школаў на гэтай самай тэрыторыі.

Выключна хуткае разьвіцьцё асьветы на Беласточчыне пасьля Студзеньскага паўстаньня было, акрамя спамянутых ужо агульных прычын, вынікам пэўных мясцовых асаблівасьцяў. Сярод іх істотнае значэньне меў рост прадукцыйных сілаў у гэтым раёне, у прыватнасьці — хуткае разьвіцьцё тэкстыльнай і іншых галін прамысловасьці. Іншым важным фактарам было таксама палітычнае становішча Беласточчыны. Як вядома, яна была прыгранічным раёнам, найдалей на захад высунутым кавалачкам зямлі вялікай

[41] Тамсама.
[42] Памятная книжка Виленского учебного округа за 1874 год. Вильна, 1874; Гродненский православно–церковный календарь или православие в Брестско–Гродненской земле в конце 19 века Епископа Иосифа. Воронеж, 1899. Изд. 2–е. Т. I і II.

імпэрыі. Гэтая акалічнасьць абумовіла ў немалой меры зацікаўленасьць царскіх уладаў у абрусеньні і ляяльнасьці мясцовага насельніцтва.

Разьвіцьцё народнай асьветы на Беласточчыне адыграла вырашальную ролю *ў пашырэньні пісьменнасьці* сярод яе насельніцтва. Як паказваюць афіцыйныя дадзеныя[43], у 1897 г. узровень пісьменнасьці насельніцтва Гарадзенскай губэрні дасягнуў 38% усіх яе жыхароў (ня лічачы дзяцей да 9–гадовага ўзросту). Гэта быў нізкі паказчык у параўнаньні з сучасным станам пісьменнасьці насельніцтва. Цікавейшым, аднак, ёсьць іншае параўнаньне. У канцы XIX ст. узровень пісьменнасьці ў Гарадзенскай губэрні быў адным з найвышэйшых у цэлай эўрапейскай Расеі, саступаючы толькі сямі губэрням — Пецярбурскай, Маскоўскай, Курляндзкай, Эстляндзкай, Ліфляндзкай, Ковенскай і Яраслаўскай. У гэтым пляне Гарадзенская губэрня значна перавышала сярэдні ўзровень пісьменнасьці насельніцтва як у цэлай эўрапейскай частцы Расеі (30%), так і ў пяці губэрнях "Паўночна–заходняга краю" (31%).

*Асабліва высокі ўзровень пісьменнасьці насельніцтва наглядаўся ў той час на Беласточчыне*. Калі ва ўсёй Гарадзенскай губэрні ён складаў 38%, то ў трох яе заходніх паветах — Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім — дасягнуў 47%. Зразумела, гэтыя дадзеныя не былі канчатковым паказчыкам пісьменнасьці царскага пэрыяду. Як вядома, пасьля 1897 г. тут аж да першай сусьветнай вайны наглядалася далейшае хуткае разьвіцьцё асьветы. У 1910 г. колькасьць вучняў у пачатковых школах Гарадзенскай губэрні перавышала 81,9 тыс., узрастаючы на 70% у параўнаньні з 1896 г. Яшчэ хутчэй разьвівалася ў той час сярэдняе школьніцтва. У 1910 г. тут ужо было 25 сярэдніх агульнаадукацыйных школаў з 6,7 тыс. вучнямі, а ў 1911 г. колькасьць вучняў у гэтых школах дасягнула ўжо 9,1 тыс. Усё гэта садзейнічала далейшаму росту пісьменнасьці насельніцтва. Можна прыняць, што напярэдадні першай сусьветнай вайны ўзровень пісьменнасьці на Беласточчыне складаў каля 60%.

Цікава адзначыць, што расейскае школьніцтва на Беласточчыне карысталася далёка не аднолькавым зацікаўленьнем сярод паасобных канфэсійных групаў насельніцтва. Хуткае яго разьвіцьцё ў пэрыяд 1863—1914 г. было зьвязана галоўным чынам з пашырэньнем школаў у праваслаўных асяродзьдзях. Ва ўмовах адсутнасьці закону аб абавязковым усеагульным навучаньні вынікі гэтыя дасягаліся ў значнай меры шляхам арганізатарскай дзейнасьці праваслаўнага духавенства. Адначасова стаўленьне каталіцкага насельніцтва да расейскіх школаў, асабліва царкоўна–парафіяльных, было адмоўнае, што было вынікам дзейнасьці каталіцкага духавенства, якое бачыла ў іх пагрозу аправаслаўленьня маладога пакаленьня. Цікавыя дадзеныя ў гэтай справе прыводзіць І. Карчынскі[44], сьцьвярджаючы, што ў Гарадзенскай губэрні на пачатку XX ст. у школах вучылася каля 50% усіх праваслаўных дзяцей у школьным узросьце, тады як у выпадку моладзі каталіцкага веравызнаньня ўдзел гэты не перавышаў нават 14%[45].

У такіх умовах у каталіцкіх асяродзьдзях Беласточчыны пашыралася тайнае навучаньне на польскай мове, якое таксама ўплывала на рост пісьменнасьці насельніцтва. Аб гэтым сьведчыць факт, што — як паказвае спамянуты царскі перапіс насельніцтва — у канцы XIX ст. узровень пісьменнасьці каталіцкага насельніцтва Беласточчыны быў не ніжэйшы, чым яе жыхароў праваслаўнага веравызнаньня.

Школы царскага пэрыяду часта крытыкуюцца за іх канфэсійную абмежаванасьць і

[43] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. Т. 4, 5, 11, 22 і 23; Ежегодник России 1912 г.

[44] Карчынскі Іван (1864 — ?) — рэлігійны і грамадзка–палітычны дзяяч, гарадзенскі праваслаўны сьвятар, адзін з заснавальнікаў і старшыня Гарадзенскага царкоўна–археалягічнага камітэту. Пасьля рэвалюцыі 1917 г. супрацоўнічаў зь беларускім нацыянальным рухам у Горадні, уваходзіў у склад гарадзенскага Беларускага нацыянальнага камітэту. — *А.П.*

[45] Гродненские епархиальные ведомости 1902 г. № 2. Корчинский И. Столетие Гродненской губернии.




А — Эўрапейская Расея
Б — Беларускія губэрні
В — Гарадзенская губэрня
Г — Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы

нізкі ўзровень навучаньня. Сапраўды, яны давалі вучням вельмі скупыя веды. У царкоўна–парафіяльных аднаклясных школах вывучаліся толькі наступныя прадметы: рэлігія, царкоўныя сьпевы, чытаньне і пісаньне па–расейску, чытаньне царкоўнаславянскіх тэкстаў і пачаткі арытмэтыкі, а ў дзьвюхклясных школах выкладаліся яшчэ гісторыя Расеі і Праваслаўнай царквы[46]. Падобную праграму мелі таксама школы міністэрства народнай асьветы. Яшчэ ніжэйшы ўзровень мелі т.зв. школы граматы, якія ў нямногім толькі нагадвалі сучасныя школы.

Ацэньваючы вынікі дзейнасьці расейскіх школаў перад першай сусьветнай вайной, трэба мець на ўвазе ня толькі параўнаньне з узроўнем навучаньня і праграмай сучасных школаў, але і тыя канкрэтныя задачы, якія ставіліся перад імі — задачы перавыхаваньня мясцовага насельніцтва ў духу мураўёўскіх запаветаў. Ці справіліся яны з гэтымі задачамі на Беласточчыне і ў якой меры? Якія былі вынікі царскай адукацыйнай сыстэмы ў гэтым раёне?

Адным з найбольш дадатных вынікаў дзейнасьці школаў у пэрыяд 1863—1914 г. быў факт, што незалежна ад сваёй ідэйнай накіраванасьці яны ўмацавалі шматгадовыя традыцыіі і навыкі насельніцтва Беласточчыны ў галіне асьветы наогул. Гэта знайшло сваё выражэньне, між іншым, у збудаваньні шматлікіх школьных будынкаў, асабліва ў праваслаўных асяродзьдзях. Несумненна, важным вынікам разьвіцьця народнай асьветы быў значны прагрэс у павышэньні ўзроўню пісьменнасьці, што садзейнічала пашырэньню расейскай культуры сярод насельніцтва.

Адначасова, у выніку свайго русіфікатарскага характару, царская асьветная сыстэма ўплывала адмоўна на разьвіцьцё нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларускага насельніцтва Беласточчыны. Яна прышчэплівала маладому пакаленьню нігілісцкія ці нават пагардлівыя адносіны да сваёй мінуўшчыны, мовы і культуры. Асьветная сыстэма царызму, якая дзейнічала ў атмасфэры правакаваных канфэсійных антаганізмаў, са-

[46] Константинов Н.А., Струминский В.Я. Очерки по истории начального образования в России. Москва, 1953.

дзейнічала шляхам натуральнай рэакцыі нарастаньню польскай самасьвядомасьці сярод пераважнай часткі каталіцкага насельніцтва Сакольскага, Дуброўскага і часткова Беластоцкага паветаў, дарма што карысталася яно беларускай мовай.

Усе гэтыя фактары, пакінутыя ў спадчыну царызмам, адыгралі істотную ролю ў разьвіцьці беларускага нацыянальнага школьніцтва на Беласточчыне ў XX ст.

## Першыя беларускія школы

У жніўні 1914 г. пачалася першая сусьветная вайна, а праз год — адступленьне расейскіх войскаў з заходніх губэрняў царскай імпэрыі. Наступіў пэрыяд нямецкай акупацыі, які на Беласточчыне працягваўся да палавіны лютага 1919 г. Менавіта з гэтым пэрыядам зьвязаны пачатак гісторыі сучаснай беларускай школы.

Як вядома, ува ўмовах Расейскай імпэрыі дзейнасьць беларускіх школаў не дазвалялася. Царызм не прызнаваў нават факту існаваньня беларускай і ўкраінскай нацыяў, зыходзячы з таго, што яны ёсьць толькі плямёнамі аднаго расейскага народу. Рэвалюцыя 1905 г., якая вымусіла царызм пайсьці на пэўныя саступкі ў далейшай нацыянальнай і канфэсійнай палітыцы, не зьмяніла яго стаўленьня да пытаньня беларускай школы. Апошняе слова ў гэтай справе было выказана Дзяржаўнай думай у 1911 г., якая рашуча адхіліла праект закону аб свабодзе навучаньня ў школах на беларускай мове[47].

Стаўленьне нямецкіх акупацыйных уладаў да беларускага школьніцтва не было выняткам у іх агульнай школьнай палітыцы на акупаваных тэрыторыях былой Расейскай імпэрыі. Ужо 27 кастрычніка 1915 г. кайзэраўская Віленская губэрская ўправа абвясьціла распараджэньне аб забароне навучаньня ў школах на расейскай мове[48]. Сьледам за ім наступілі ўказаньні аб тым, што мовай навучаньня ў школах павінна быць родная мова насельніцтва[49].

Згодна з гэтымі распараджэньнямі, на акупаваных немцамі тэрыторыях дзейнічалі літоўскія, латыскія, польскія, беларускія, украінскія і габрэйскія школы. Восеньню 1916 г. была арганізавана ў Сьвіслачы дзяржаўная Беларуская настаўніцкая сэмінарыя[50], дзе вучылася пэўная колькасьць настаўнікаў з суседняй Беласточчыны. У гэтым самым годзе ў Вільні пачалі дзейнічаць пастаянныя настаўніцкія курсы[51]. Узьнікаюць дзьве беларускія гімназіі — у Вільні і Будславе Вялейскага павету — і некалькі сот народных школаў[52].

---

[47] Канчер Е.С. Белорусский вопрос. Петроград, 1919. С. 7. — *Ю.Т.*

Гэта не было апошняе слова. У 1915 г. пытаньне аб беларускай мове навучаньня абмяркоўвалася на зьезьдзе куратараў навучальных акругаў. У прыватнасьці, міністар асьветы заявіў на ім, што беларусы маюць права вучыцца рэлігіі на сваёй мове (гл. арт. А. Луцкевіча “Першы крок” у “Нашай Ніве” за 19.03.1915 г.). — *А.С.*

[48] Hirschberg A. Zarys historyczno–statystyczny szkolnictwa na ziemiach północno–wschodnich (1913—1929). Wilno, 1932. S. 4.

[49] Das Land Ober Ost. Deutsche Arbeit in den Verwultungsgebieten Kurland, Litauen und Białystok–Grodno. Stuttgart und Berlin, 1917. S. 376.

[50] Сьвіслацкая сэмінарыя працавала па прынцыпе курсаў: першы набор вучыўся 3 месяцы, наступныя — па 6 месяцаў. З 15 кастрычніка 1916 г. па 15 лістапада 1918 г. было падрыхтавана 144 настаўнікі (гл.: Siemakowicz M. Polityka władz rosyjskich, niemieckich i polskich wobec szkolnictwa białoruskiego w latach 1903—1922 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1997. № 7.). — *А.С.*

[51] 6–тыднёвыя вечаровыя настаўніцкія курсы пачалі працаваць у Вільні 15 сьнежня 1915 г. — *А.С.*

[52] Maursberg St. Szkolnictwo powszechne dla mniejszości narodowych w Polsce w latach 1918—1939. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1968. S. 104; Deruga Aleksy. Z dziejów sprawy białoruskiej w latach 1917—1918 // Przegląd Historyczny. 1968. Zeszyt 4. — *Ю.Т.*

Вярхоўным кіраўнічым органам у галіне асьветы на акупаванай тэрыторыі была т.зв. Управа культуры пры нямецкім галоўным камандаваньні на ўсходзе. Кіраўніцтва і нагляд за дзейнасьцю школаў у паасобных паветах выконвалі начальнікі павятовых упраў, якім падпарадкоўваліся школьныя інспэктары. Кожнае адкрыццё і закрыццё школы патрабавала згоды павятовых уладаў. Цікава падкрэсьліць, што на акупаваных тэрыторыях не існавалі распараджэньні аб абавязковым усеагульным навучаньні, з чаго вынікае, што дзейнасьць школаў у той час была несумненным вынікам зацікаўленасьці насельніцтва[53].

Асноўным фактарам, які ў разгляданы пэрыяд абумоўліваў разьвіцьцё беларускіх школаў на Беласточчыне, была масавая эвакуацыя насельніцтва ў глыб Расеі. Калі напярэдадні першай сусьветнай вайны колькасьць насельніцтва Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў складала каля 600 тыс. чалавек, то на пачатку нямецкай акупацыі яно зьменшылася да 305 тыс. Такім чынам, амаль палавіна насельніцтва Беласточчыны пакінула[54] свае родныя мясьціны, пачынаючы шматгадовыя вандраваньні па прасторах Расеі.

**Табліца 7.** Колькасьць насельніцтва Беласточчыны[55] (у тысячах)

| Паветы | На пачатак 1912 | У I палавіне 1916 | Зьмяншэньне насельніцтва |
|---|---|---|---|
| Беластоцкі[a] | 254,1 | 140,4 | 45% |
| Бельскі | 206,7 | 86,1 | 58% |
| Сакольскі | 132,4 | 78,7 | 41% |
| **Разам** | 593,2 | 305,2 | 49% |

[a] улучна з горадам Беластокам

Асабліва значна зьменшылася ў той час колькасьць праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны. Калі напярэдадні вайны ў спамянутых трох паветах пражывала 139,5 тыс. чалавек праваслаўнага веравызнаньня (бяз войска і расейскіх чыноўнікаў, якія часова знаходзіліся на Беласточчыне), то летам 1919 г. яго колькасьць складала толькі 53,7 тыс., г.зн. на 62% менш, чым да вайны[56].

Прымаючы пад увагу, што да лета 1919 г. частка гэтага насельніцтва ўжо вярнулася на радзіму, можна ацэньваць, што на пачатку нямецкай акупацыі на Беласточчыне засталося ня больш за 30% даваеннай колькасьці мясцовага праваслаўнага насельніцтва.

У такіх умовах колькасьць школаў на Беласточчыне, як польскіх, так і беларускіх, не магла быць значнай. На жаль, не захаваліся ні ў літаратуры, ні ў даступных архівах падрабязныя дадзеныя аб іх разьмяшчэньні ў паасобных вёсках. Такім чынам, толькі

Думаецца, найбольш дакладнаю інфармацыяй аб колькасьці беларускіх школаў на тэрыторыі, акупаванай немцамі ў 1915 г., валодаў А. Луцкевіч. У артыкуле “Аб беларускую гімназію” (Homan. 15.02.1918) ён пісаў, што неўзабаве лік народных школаў “дойдзе паўтара сотні”, а вучняў у іх будзе каля 6000 чалавек. У артыкуле “Вільня, 13 жніўня 1918 г.” (Homan. 13.08.1918) ён пісаў, што “беларускія народныя школы дайшлі ў нас даволі вялікай цыфры — 150”. У брашуры “Польская акупацыя ў Беларусі” (1920) і артыкуле “Дзесяцілецьце Беларускае школы” (Жыцьцё Беларуса. 1925. 12 лістапада) А. Луцкевіч адзначаў, што ў Віленшчыне і Гарадзеншчыне ў пэрыяд нямецкае акупацыі было закладзена 153 школы. Гэтая лічба названая і ў зборніку “Наша Ніва” (Вільня, 1920. С. 48). — *А.С.*

[53] Das Land Ober Ost... S. 375—376.

[54] Аўтар абмінае тут пытаньне аб характары эвакуацыі беларускага насельніцтва Беласточчыны ды іншых заходніх беларускіх земляў. У значнай меры яно было прымусовым. — *А.С.*

[55] Ibidem. S. 432; Ежегодник России 1912 г.

[56] AAN. Zespół MWRiOP, Sygn. 998. List biskupa grodzieńskiego № 688 z 27.11.1919 r. oraz sprawozdanie z konferencji w Białymstoku, Bielsku i Sokółce z 27—30.01.1920 r. W sprawie organizacji parafii prawosławnych.

на падставе сьведчаньняў старых настаўнікаў і насельніцтва аўтар змог устанавіць, што *ў гады першай сусьветнай вайны беларускія народныя школы існавалі, між іншым, у Крынках Сакольскага пав., у Студзянках Беластоцкага пав. (настаўнічала Вера Рожка), у Старым Ляўкове, Навасадах, Тынявічах, Грабаўцы (настаўнічала Вера Матэйчук) і ў Моры Гайнаўскага пав. Гэтыя фрагмэнтарныя зьвесткі дазваляюць мяркаваць, што беларускія школы існавалі таксама і ў іншых мясцовасьцях Беласточчыны.*

Першыя беларускія народныя школы на Беласточчыне, якія ўзьніклі ў 1916 г., існавалі вельмі кароткі час, прыкладна тры–чатыры гады. Іх становішча, напэўна, не было лёгкае. У той час толькі пачыналася падрыхтоўка настаўніцкіх кадраў і падручнікаў для беларускіх школаў. Тым ня менш сам факт існаваньня гэтых школаў адыграў немалую ролю ў гісторыі нацыянальнай асьветы. Беларускае насельніцтва Беласточчыны ўпершыню пераканалася, што прыдатнасьць роднай мовы не абмяжоўваецца толькі сялянскай хатай, што на ёй могуць пасьпяхова адбывацца заняткі ў школе.

## Барацьба за родную школу

Заканчэньне сусьветнай вайны стварыла ўмовы для далейшага разьвіцьця народнай асьветы на Беласточчыне. Важнае значэньне ў гэтай справе меў выдадзены ў 1919 г. дэкрэт польскага ўраду аб усеагульным навучаньні. Такім чынам, пачатковая асьвета ў гэтым раёне ўпершыню набывала характар закону і абавязвала ўсю моладзь ва ўзросьце 7—13 гадоў незалежна ад нацыянальнасьці і веравызнаньня.

Нягледзячы на шматлікія матэрыяльныя і арганізацыйныя недахопы, якія выступалі ў пэрыяд пасьляваеннай адбудовы: недастатковая колькасьць школьных памяшканьняў, падручнікаў і кваліфікаваных настаўніцкіх кадраў, — народная асьвета на Беласточчыне ўва ўмовах буржуазнай Польшчы праяўляла хуткае разьвіцьцё, аб чым сьведчаць наступныя дадзеныя:

**Табліца 8.** Колькасьць вучняў у пачатковых школах Беласточчыны[57] (у тысячах)

| Год | Разам | У тым ліку: | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Беласток горад | Беластоцкі пав. | Бельскі пав. | Сакольскі пав. |
| 1920/21 | 28,7 | – | 12,6[а] | 11,1[б] | 5,0 |
| 1925/26 | 50,2 | 6,6 | 16,8 | 15,7 | 11,1 |
| 1930/31 | 58,4 | 9,3 | 16,0 | 20,9 | 12,2 |
| 1935/36 | 79,7 | 11,8 | 21,3 | 30,9 | 15,7 |
| 1936/37 | 82,6 | 11,7 | 22,1 | 32,6 | 16,1 |
| 1937/38 | 85,3 | 11,9 | 22,5 | 34,3 | 16,6 |

[а] улучна з горадам Беластокам
[б] улучна зь Белавескім паветам

Ужо ў 1925/26 г., калі закончылася рэпатрыяцыя эвакуаванага ў Расею мясцовага насельніцтва, у Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах было 546 пачатковых школаў, у якіх навучалася 50,2 тыс. вучняў. Такім чынам, ужо ў першыя пасьляваенныя гады колькасьць школаў і вучняў на Беласточчыне значна перавышала іх узровень, дасягнуты ў апошнія гады царскага рэжыму. Хуткае разьвіцьцё народнай асьветы назіралася тут да канца міжваеннага пэрыяду. Паводле апошніх даваенных дадзеных, у 1937/38 г. колькасьць вучняў у пачатковых школах Беласточчыны дасягнула 85,3 тыс.,

[57] Miesięcznik Statyst. GUS. 1922. T.5. Zeszyt 12; Falski M. Szkoły Rzeczypospolitej Polskiej w 1925/26 r.; GUS. Statystyka szkolnictwa 1930/31—1937/38.

перавышаючы на 70% узровень 1925/26 г. У гэты самы пэрыяд колькасьць вучняў у Бельскім павеце ўзрасла ў 2,2 разы, у Сакольскім — на 50%, у Беластоцкім — на 34% і ў горадзе Беластоку — на 80%.

Цяжкае эканамічнае і сацыяльнае становішча, асабліва сельскага насельніцтва, было асноўным фактарам, які стаяў на перашкодзе поўнага ажыцьцяўленьня закону аб усеагульным навучаньні. Тым ня менш і ў гэтай галіне наступіў у міжваенны пэрыяд прыкметны прагрэс. Калі на пачатку XX ст. колькасьць вучняў у школах не перавышала 2/3 агульнай колькасьці моладзі ў школьным узросьце, то ўжо ў 1925/26 г. яна складала 83%, а напярэдадні другой сусьветнай вайны дасягнула амаль 90%[58]. Немалыя посьпехі былі дасягнутыя таксама ў галіне школьнага будаўніцтва. Калі ў 1925/26 г. толькі 25% пачатковых школаў Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў зьмяшчалася ва ўласных будынках, то ў 1937/38 г. ужо палавіна школаў мела ўласныя памяшканьні[59].

*Разьвіцьцё народнай асьветы ў міжваенны пэрыяд адыграла істотную ролю ў павышэньні ўзроўню пісьменнасьці насельніцтва Беласточчыны.* Калі ў 1921 г., г.зн. непасрэдна пасьля вайны, толькі 66% насельніцтва Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў (безь дзяцей да 9–гадовага ўзросту ўлучна) было пісьменным, то ўжо ў 1931 г. узровень гэты ўзрос да 80%, а ў наступныя гады выяўляў, зразумела, далейшы рост[60].

Аднак гэтая пісьменнасьць адпавядала самым нязначным патрабаваньням чытаць і пісаць, і таму было б памылкова атаясамліваць яе рост з разьвіцьцём адукацыі насельніцтва.

Буржуазныя ўлады, якія выказалі немалыя намаганьні ў пашырэньні пачатковай асьветы на Беласточчыне, на працягу міжваеннага дваццацігодзьдзя поўнасьцю ігнаравалі патрэбы мясцовага беларускага насельніцтва ў галіне асьветы на яго роднай мове. Цікава падкрэсьліць, што адносіны асьветных і адміністрацыйных уладаў да гэтага пытаньня на Беласточчыне адрозьніваліся ад ажыцьцяўлёнай імі школьнай палітыкі на т.зв. паўночна–ўсходніх крэсах. Гэта было вынікам пэўных асаблівасьцяў нацыянальнай палітыкі, якая ў гэтым раёне была абумоўлена несумненна іншым, чым на тагачасных крэсах, характарам нацыянальнай структуры насельніцтва.

Першым істотным адрозьненьнем было тое, што Беласточчына, а ў прыватнасьці тагачасныя Бельскі і Беластоцкі паветы, была многія стагодзьдзі месцам стыку карэннага польскага (мазурскага) і беларускага насельніцтва, і, па–другое, нідзе на заходнебеларускіх землях удзел палякаў у агульнай колькасьці насельніцтва ня быў такі высокі, як тут[61]. Неабходна дадаць, што ў 1919 г., калі праводзіліся дасьледаваньні па разьмежаваньні польскіх і беларуска–ўкраінскіх этнічных абшараў, колькасьць беларус-

[58] Falski M. Szkoły Rzeczypospolitej Polskiej w 1925/26 r.; GUS. Statystyka szkolnictwa 1930/31—1937/38.

[59] Тамсама.

[60] Pierwszy spis powszechny Pzeczpospolitej Polskiej z 30.09.1921 r. Mieszkania, ludność, stosunki zawodowe, woj. białostockie. Tabl. 8. Warszawa, 1927; Drugi powszechny spis ludności z 09.12.1931. Mieszkania i gospodarstwa domowe, ludność, stosunki zawodowe, woj. białostockie. Tabl. 17. Warszawa, 1938.

[61] Паводле царскай статыстыкі (гл. зноску 43), у 1897 г. насельніцтва Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў складала 481,6 тыс., у тым ліку з роднай мовай польскай — 128,7 тыс. (27%) і беларускай (разам з “малороссийской” і расейскай) — 245,6 тыс. (51%). Паводле польскага перапісу (гл. зноску 60), у 1931 г. насельніцтва спамянутых паветаў складала 536,7 тыс., у тым ліку з роднай мовай польскай — 367,3 тыс. (68%) і беларускай (разам з украінскай і расейскай) — 90,1 тыс. (17%). Паколькі міграцыя насельніцтва ў разгляданы пэрыяд зьмяніла параўнальна ў невялікай меры яго нацыянальную структуру, такая вялікая розьніца магла быць вынікам відавочнай тэндэнцыйнасьці як расейскага, так і польскага перапісаў. З гэтай прычыны спамянутыя дадзеныя не прадстаўляюць вялікай вартасьці для навуковага аналізу. Больш сэнсоўнай ёсьць статыстыка насельніцтва па веравызнаньнях: у 1897 г. удзел каталікоў у цэлым насельніцтве Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага пав. складаў 49%, а пра-

кага насельніцтва на Беласточчыне была значна меншая, чым да вайны, паколькі вялікая яго частка яшчэ не вярнулася зь бежанства, з Расеі.

Гэтыя фактары паўплывалі на рашэньне Вярхоўнай рады Вэрсальскай мірнай канфэрэнцыі, згодна зь якім Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы залічваліся ў склад польскага этнічнага абшару і разьмяшчаліся на захад ад пазьнейшай “лініі Керзона”[62]. Факт гэты выкарыстоўваўся ўладамі буржуазнай Польшчы для таго, каб не прызнаваць беларускаму насельніцтву Беласточчыны ў галіне нацыянальнай асьветы нават такіх правоў, якія тэарэтычна прызнаваліся беларускаму насельніцтву на закерзонскіх “усходніх крэсах”.

У выніку таго становішча арганізаваныя на Беласточчыне ў часе першай сусьветнай вайны беларускія школы замяняюцца польскімі. Новае юрыдычнае становішча ў гэтай галіне вызначае прыняты соймам 31 ліпеня 1924 г. закон аб арганізацыі школьніцтва для нацыянальных меншасьцяў[63], дзейнасьць якога расьцягвалася на ўсю Заходнюю Беларусь за выняткам Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў[64]. У сувязі з гэтым беларускае насельніцтва Беласточчыны пазбаўлялася нават права на асьвету ў роднай мове.

Рэакцыйная нацыянальная палітыка буржуазных уладаў не змагла, аднак, спыніць змаганьня беларускага насельніцтва Беласточчыны за школу на роднай мове. Асабліва значна яно выявілася ў часе гістарычнага ўздыму барацьбы беларускіх працоўных масаў

---

васлаўных — 29%, у 1931 г. каталікоў было 59%, а праваслаўных — 25% (улучна з насельніцтвам уніяцкіх парафіяў у Касной, Курашаве і Фастах). Немагчыма, аднак, правесьці паралель паміж роднай мовай і веравызнаньнем, паколькі як у 1897 г., так і ў 1931 г. частка каталіцкага насельніцтва Беласточчыны карысталася беларускай мовай (Сакольшчына, часткова Беластоцкі пав., нават некаторыя вёскі Бельскага пав.), а невялікая частка праваслаўнага насельніцтва — польскай мовай (паўднёва–заходняя частка б. Бельскага пав.). Цікавыя матэрыялы па разьмяшчэньні беларускіх гаворак на Беласточчыне былі апублікаваны Ст. Глінкай і Э. Смулковай (гл.: Sprawozdania z prac naukowych Wydz. Nauk Społecznych PAN. Zeszyt 5. Warszawa, 1960), аднак яны ня ёсьць падставай для ацэнкі прапорцыі насельніцтва з пункту гледжаньня яго нацыянальнасьці ці роднай мовы.

Сьцьвярджаючы высокі ўдзел польскага насельніцтва, аўтар меў на ўвазе факт, што ў разгляданыя гады яно складала найбольшую нацыянальную групу ў Беластоцкім павеце (залічваючы ў яго склад цяперашні Монькаўскі і часткова Лапскі пав. і горад Беласток), а ў Бельскім пав. не ўступала яно па колькасьці беларускаму насельніцтву. У Сакольскім пав. амаль усё насельніцтва вёсак карысталася ў штодзённым жыцьці беларускай мовай, хаця беларусамі лічыліся праваслаўныя, а каталікі — палякамі.

[62] “Лініяй Керзона” называлася лінія, якая была прапанаваная міністрам замежных спраў Вялікай Брытаніі Джорджам Натаніэлем Керзонам (1859—1925) і вызначаная ў сьнежні 1919 г. Вярхоўнай радай Антанты ў якасьці ўсходняй мяжы Польшчы (прыблізна Горадня — Берасьце — на ўсход ад Перамышля і да Карпат). Амаль адпавядае сучаснай беларуска–польскай мяжы зь невялікімі адхіленьнямі на карысьць Польшчы. — *А.П.*

[63] Законы, якія рэгулявалі ўжываньне беларускай, украінскай і літоўскай моў у працы адміністрацыі, судоў і школаў на тэрыторыі ўсходніх ваяводзтваў Польшчы (т.зв. “крэсовыя законы”), разглядаліся ў сойме Польскай рэспублікі 9—10 ліпеня 1924 г. 25 і 26 ліпеня 1924 г. законы разглядаліся сэнатам. 31 ліпеня сойм прыняў законы ў канчатковай рэдакцыі. Згодна зь імі, для тэрытарыяльных нацыянальных меншасьцяў уводзіліся т.зв. “утраквістычныя” (дзьвюхмоўныя) школы. Таксама вызначаліся даволі абмежаваныя правілы выкарыстаньня нацыянальных моў у дзяржаўных установах. Хоць гэтыя законы і зьяўляліся пэўным крокам наперад у параўнаньні з ранейшым часам, аднак у тагачасных умовах, на фоне беларусізацыі ў БССР і агульнай радыкалізацыі настрояў, не маглі нікога задаволіць, тым больш, што фактычна засталіся на паперы. Беларускія дзяячы сабралі больш за 400 дэкларацыяў на адкрыцьцё беларускіх школаў у Віленскім, Навагрудзкім і Палескім ваяводзтвах, аднак ніводнай школы ў выніку не атрымалі. — *А.П.*

[64] Dziennik Ustaw Rzeczypospolitej Polskiej 1924. № 79. Poz. 766.

за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне, якая разгарнулася пад кіраўніцтвам Беларускай сялянска–работніцкай грамады (1924—1926 г.)[65].

Пытаньне аб школах на роднай мове навучаньня займала адно з важнейшых месцаў як у праграме Грамады, так і ў практычнай дзейнасьці яе гурткоў. У выніку іх арганізатарскай дзейнасьці насельніцтва шматлікіх вёсак Бельскага і Беластоцкага паветаў уключылася ў барацьбу за беларускую школу. Рэзалюцыі ў гэтай справе прымаліся насельніцтвам Маліньнікаў, Трасьцянкі, Шымкаў, Новай Волі, Пянькоў, Азяблаў, Цісоў, Такароўшчыны, Страшава, Грыбаўцаў, Зубкоў і іншых вёсак. Як сьведчаць былыя дзячы Грамады, школьная справа стаяла на парадку дня дзейнасьці кожнага гуртка.

Упамянутыя патрабаваньні насельніцтва не выходзілі, як правіла, далей гміннай управы, дзе войты ня мелі клопатаў зь іх адхіленьнем з тае прычыны, што гэтая дзейнасьць ува ўмовах Беласточчыны не прадбачвалася школьным законам. Крыху больш “пасьпяховымі” былі стараньні насельніцтва вёскі Страшава Беластоцкага павету, дзе старшынём гуртка Грамады быў Мікола Лебядзінскі. Жыхары гэтай вёскі атрымалі нейкім чынам неабходнае пацьверджаньне сваёй дэклярацыі ў гміннай управе і змаглі пакласьці яе ў павятовы школьны інспэктарат у Беластоку. Толькі тут яна была адхілена. Была гэта, дарэчы, адзіная поўнасьцю афармленая дэклярацыя на ўсёй Беласточчыне[66].

Цікава падкрэсьліць, што патрабаваньні насельніцтва Беласточчыны адкрыць беларускія школы былі прадметам некалькіх інтэрпэляцыяў Беларускага пасольскага клюбу, якія падаваліся ў сойме старшыні Рады міністраў і міністру асьветы і веравызнаньняў. Так, напрыклад, 28 лістапада 1924 г. паслы прывялі патрабаваньні жыхароў Трасьцянкі і Белкаў адчыніць беларускія школы, а 15 сьнежня таго ж году — падобныя патрабаваньні насельніцтва вёсак Янова, Даратынкі, Градочна і іншых. 20 студзеня 1925 г. была ўнесена ў сойм інтэрпэляцыя, у якой паслы прадстаўлялі патрабаваньне насельніцтва адкрыць беларускую школу ў Орлі[67]. Зразумела, і гэтыя патрабаваньні былі адхілены як “незаконныя”.

Старонкі змаганьня беларускага насельніцтва Беласточчыны за родную школу ў міжваенны пэрыяд пераканаўча сьведчаць, што шматгадовая русіфікатарская палітыка царызму не змагла выкараніць у народзе імкненьня да разьвіцьця сваёй нацыянальнай культуры. Зразумела, яшчэ менш пасьпяховай была рэакцыйная палітыка польскай буржуазіі, якая знайшла сваё адлюстраваньне ў забароне беларускай школы на Беласточчыне ў міжваеннае 20–годзьдзе. Красамоўным сьведчаньнем гэтага ёсьць узьнікненьне беларускага школьніцтва ў гады савецкай улады на Беласточчыне (1939—1941) і далейшае яго разьвіцьцё ўва ўмовах Польскай Народнай Рэспублікі[68].

*Друкуецца паводле:* Навуковы зборнік БНТ і БГКТ. Беласток. 1974.

---

[65] Беларуская сялянска–работніцкая грамада афіцыйна існавала ад чэрвеня 1925 г. да сакавіка 1927 г. — *А.П.*
БСРГ нельга назваць самастойнай палітычнай арганізацыяй. Яна была экспазытурай КПЗБ. — *А.С.*

[66] Зарніца. Аднаднёўка. Вільня. 09.01.1925.

[67] Інтэрпэляцыі беларускіх паслоў у польскі сойм 1922—1926 гг. Менск, 1927. С. 163, 180 і 189—190. — *Ю.Т.*
Беларускі пасольскі клюб (БПК) — аб'яднаньне беларускіх паслоў і сэнатараў у польскім парлямэнце, існаваў у 1922—1927 і 1928—1930 г. Парлямэнтары ў міжваеннай Польшчы мелі права падаваць дзяржаўным уладам інтэрпэляцыі (запыты) па розных пытаньнях, на якія, згодна з законам, павінны былі атрымаць афіцыйны адказ. Як правіла, на інтэрпэляцыі беларускіх паслоў польскія ўлады рэагавалі фармальнымі “адпіскамі”, але сам тэкст інтэрпэляцыі пасьля яе афіцыйнай падачы мог свабодна распаўсюджвацца і не падлягаў канфіскацыі. Менавіта з гэтым зьвязана вялікая колькасьць парлямэнцкіх інтэрпэляцыяў ад апазыцыйных згуртаваньняў, пададзеных па даволі дробных і лякальных пытаньнях. — *А.П.*

[68] Стан беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў пэрыяд гітлераўскай акупацыі аўтар разглядае ў працы “Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе (1941—1944)” (С. 772—789 у гэтым выданьні. — *Рэд.*). — *А.С.*

# Прынцып дабравольнасьці і яго дзеяньне

Выступаючы ў дыскусіі, мае папярэднікі заявілі: вось, вінаваты і таварыства, і настаўнікі, бацькі. Адны слаба прапагандуюць, іншыя бяздушна вучаць, абыякава адносяцца. Словам, прапануецца ледзь ня акт калектыўнай самакрытыкі.

Няцяжка зразумець, што зыходным пунктам такіх меркаваньняў ёсьць псыхічны бар'ер, які ствараюць сучасныя правілы асьветных уладаў аб дабравольнасьці вывучэньня роднай мовы. Лёгіка нібыта простая: калі дабравольнасьць, тады і вінаватых можна шукаць толькі на сваім панадворку. А вывады, да якіх даходзяць дыскусанты, драматычныя і правакуюць пытаньні: няўжо наша насельніцтва ня ёсьць нічым больш, як усходнеславянскай этнічнай групай зь нігілістычнымі адносінамі да сваёй нацыянальнай мовы і культуры? Няўжо навучаньне беларускай мовы ў школах, якое ажыцьцяўляецца ўжо 35 гадоў, раптам страціла сэнс?

Каб дасьледаваць пытаньне салідна, неабходна разгледзець усе факты, якія ўплываюць на абсяг і працэс навучаньня. Няма сумневу, што аднымі з найважнейшых, па сутнасьці вырашальнымі, ёсьць правілы міністэрства асьветы, якія рэгулююць працу школаў у галіне навучаньня роднай мовы. Якімі ж прынцыпамі кіруюцца школьныя ўлады?

Летам 1949 году, напярэдадні аднаўленьня беларускага школьніцтва, міністар асьветы загадаў беластоцкаму куратару наступнае (пісьмом № II–P–4842/49 ад 6 жніўня 1949 г.):

> Z uwagi na to, że w Okręgu Szkolnym Białostockim pewną część ludności stanowi ludność białoruska Ministerstwo Oświaty poleca przystąpić w miejscowościah zamieszkałych przez tę ludność do zorganizowania i uruchomienia z dniem 1 września 1949 r. szkół podstawowych z białoruskim językiem nauczania.

Згодна з гэтым загадам, адзіным прынцыпам, зь якога зыходзіла школьная адміністрацыя пры арганізацыі навучаньня роднай мовы, была нацыянальная прыналежнасьць насельніцтва. Навучаньне роднай мовы было, такім чынам, абавязковым для ўсіх вучняў беларускай нацыянальнасьці і адбывалася ў школах зь беларускай або польскай мовай навучаньня ў залежнасьці ад дабравольнага рашэньня бацькоў. Таксама гэтую справу фармулявала чарговая інструкцыя міністэрства асьветы № S 05–192/54 ад 13 студзеня 1954 году, адрасаваная тагачаснаму аддзелу асьветы ВРН у Беластоку.

Згаданыя правілы былі вынікам прызнаньня грамадзкага значэньня роднай мовы беларускага насельніцтва Беласточчыны. На іх падставе і без удзелу неіснуючага тады яшчэ БГКТ была створана школьная сыстэма, якая забясьпечвала навучаньне роднай мовы ўва ўсіх школах, у якіх меліся адпаведныя кадравыя магчымасьці.

Параўнальна невялікія зьмены наступілі ў 1957 годзе. Новае распараджэньне міністэрства асьветы № S 04–4857/57 ад 14 лістапада 1957 году, якое датычыла прадмету беларускай мовы ў школах з польскай мовай навучаньня, сьцьвярджала:

> Nie zachodzi potrzeba odwoływania się do opinii rodziców w sprawie kontynuowania nauki języka białoruskiego w tych szkołach... Do opinii i życzeń rodziców należy odwoływać się przy wprowadzaniu nauki języka białoruskiego do tych szkół z polskim językiem nauczania, w których dotychczas nie jest ona prowadzona. Z chwilą wprowadzenia do szkoły nauki języka białoruskiego staje się ona dla młodzieży białoruskiej obowiązkowa.

Новае становішча адрозьнівалася ад папярэдняга толькі тым, што адмяняўся прынцып нацыянальнай прыналежнасьці як аўтаматычны фактар у арганізацыі новых пунктаў навучаньня роднай мовы. Нязьменным заставаўся прынцып абавязковасьці яе навучаньня для дзяцей беларускай нацыянальнасьці. Ува ўмовах яго дзеяньня і з дапамогай актыву БГКТ беларускае школьніцтва на Беласточчыне прадаўжала разьвівацца.

Істотную зьмену ў адносінах міністэрства асьветы прыносіць 1962 год. Пісьмом № SO–K/N–4506 ад 17 лістапада 1962 году, адрасаваным беластоцкай куратoрыі, яно ўпершыню акрэсьліла беларускую мову ў школах з польскай мовай навучаньня як “дадатковы прадмет”. Гэтай юрыдычнай формулай прыкрывалася рашэньне аб скасаваньні папярэдніх правілаў аб абавязковасьці яе навучаньня. Сьведчыць аб гэтым — цяпер ужо пасьлядоўнае — указаньне, якое дапускала “неабходнасьць” звальняць вучняў з заняткаў беларускай мовы ня толькі па прапанове бацькоў, але і згодна зь меркаваньнем кіраўнікоў школаў.

Гэтае рашэньне не атрымала шырэйшага распаўсюджваньня. І не выпадкова. Беластоцкая куратoрыя і іншыя ваяводзкія ўлады добра ўсьведамлялі магчымыя яго эфэкты, у сувязі з чым яны далі гэтай справе вельмі абмежаваны ход. У выніку, абсяг навучаньня беларускай мовы ў пачатковых школах праяўляў да канца 60–х гадоў значную стабілізацыю (10—11 тысяч вучняў у год). Гэта, аднак, была гаспадарская паўмера, паколькі не рашыла справы прынцыпова.

Вузкі мясцовы практыцызм не забясьпечыў трывалых вынікаў. 22 лютага 1971 году куратoрыя атрымала новую інструкцыю міністэрства № SO Nar. — O14—1/1/71, якая зьмяшчае наступныя ўказаньні:

> ...Ministerstwo uprzejmie informuje, że przy organizowaniu w szkołach nauki języka ojczystego dla dzieci, które nie są narodowości polskiej, obowiązuje stosowanie zasady pełnej dobrowolności. Kierownicy szkół obowiązani są przeprowadać co roku zapis uczniów na naukę języka ojczystego... Uczeń zapisany na naukę języka ojczystego jest obowiązany regularnie uczęszczać na lekcje tego języka przez cały rok szkolny.., natomiast nie jest obowiązany zapisać się na tę naukę w następnym roku szkolnym.

Як бачым, прынцыпы школьных уладаў не былі аднароднымі і нярэдка зьмяняліся ў залежнасьці ад трактаваньня грамадзкага і пэдагагічнага значэньня роднай мовы. Зразумела, што ў сувязі з гэтым той самы прынцып дабравольнасьці атрымліваў штораз іншы зьмест, залежна ад яго інтэрпрэтацыі. Спасылаючыся на дадзеныя, апублікаваныя Гайдуком[1], можна заўважыць, што раптоўнае зьмяншэньне абсягу навучаньня беларускай мовы пачалося якраз ад дзеяньня ўпамянутай інструкцыі, нягледзячы на яе пазьнейшую мадыфікацыю. Як відаць, справу гэтую школьныя ўлады пусьцілі, у найлепшым выпадку, на самацёк.

У такім пляне прэтэнзіі, якія М. Гайдук і С. Яновіч кіруюць на адрас БГКТ і настаўнікаў, можна зразумець толькі як наіўную спробу ацэнкі становішча. Прэтэнзію да Галоўнага праўленьня БГКТ мець можна за тое, што доўгі час яно хавала галаву ў пясок і не зрабіла амаль нічога для прынцыповага вырашэньня пытаньня роднай мовы ў школах.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1975. 22 чэрвеня.

[1] Ніва. 1975. 8 чэрвеня.

# Другая бацькаўшчына Забэйды

“Прыйшоў да нас зь Беларусі”, — пісала 30 мая 1975 году праская газэта “Lidová demokracie”[1], калі ў сталіцы Чэхаславаччыны адзначалася 75–я гадавіна з дня нараджэньня Міхася Забэйды. Прыйшоў не на тое, каб здабываць тут адукацыю, як многія яго заходнебеларускія суайчыньнікі — стыпэндысты чэхаславацкага ўраду ў міжваенныя гады. Забэйда прыехаў у Прагу ў росквіце сваіх творчых сілаў, з багажом сусьветнай славы сьпевака–тэнара.

Было гэта ў маі 1940 году... Роўна 36 гадоў жыве ўжо Міхась Забэйда над берагамі Вэлтавы, у братняй Чэхіі, якая стала яму другой бацькаўшчынай. Не без хваляваньняў пераступаў я сонечнай ліпеньскай раніцай парог кватэры маэстра пры Польскай вуліцы, 12, каб наведаць слаўнага земляка і перадаць яму прывітаньне ад прыхільнікаў з–пад дрымучай Белавежы.

Так, праскі пэрыяд жыцьця Забэйды — гэта большая частка яго творчага шляху, найбольш плённыя гады ў яго мастацкай кар’еры. Аб гэтым неяк не задумваюцца людзі старэйшага пакаленьня, якія ў трыццатыя гады слухалі забэйдавы песьні па радыё ці ў канцэртных залях Вільні і заходнебеларускіх гарадоў. Тут, у Празе, удасканаліўся яго талент. Тут і ў іншых гарадох Чэхіі і Славаччыны праходзілі яго шматлікія канцэрты, выступленьні па радыё і на опэрных сцэнах. Шмат часу прысьвяціў наш зямляк таксама і пэдагагічнай дзейнасьці — музыкальнаму ўзгадаваньню маладога пакаленьня.

Родную Гарадзеншчыну Забэйда пакінуў у 1915 годзе і ад гэтага часу жыў у Расеі, Кітаі, Італіі, Польшчы і Чэхіі — заўсёды па–за межамі Беларусі. Магчыма, што гэтая акалічнасьць абумовіла ў нейкай меры яго адносіны да роднай песьні, у якой уражлівая душа мастака знаходзіла ня толькі сродак духоўнай сувязі зь зямлёй бацькоў, але і сэнс творчага існаваньня. “Ня памятаю свайго канцэрту з інтэрнацыянальнай праграмай, у які не ўваходзіла б і беларуская песьня”, — гаворыць не бяз гонару Забэйда і паказвае шматлікія праграмы сваіх выступленьняў, у якіх побач замежных кампазытараў відаць прозьвішчы Галкоўскага[2], Аладава[3], Туранкова... “Дзякуючы дапамозе праскіх сяброў я запісаў шмат беларускіх песень на грамафонныя пласьцінкі, якія спаткаліся зь вялікім зацікаўленьнем чэхаславацкага грамадзтва”, — працягвае маэстра.

Незабыўнай падзеяй у канцэртнай дзейнасьці Міхася Забэйды былі гастролі па Савецкай Беларусі, якую ён наведаў у 1963 годзе.

> Даў я тады, — успамінае мастак, — адзінаццаць канцэртаў: у Менску, Горадні, Віцебску, Магілёве, Лідзе, Ваўкавыску і іншых гарадох. У некаторых зь іх выступаў яшчэ да вайны і, вядома, там знайшлося нямала людзей, якія слухалі мяне ўжо ня першы раз. Была тады ідэя пераехаць у Беларусь назаўсёды. Нават чатыры куфры купіў — во, бачыце, ляжаць у шафе.

Восеньню 1965 году па просьбе Галоўнага праўленьня БГКТ Забэйда наведваў Беласточчыну, дзе даў восем канцэртаў — у Беластоку (два), Бельску, Гайнаўцы, Гарадку, Мілейчыцах, Міхалове і Саколцы. Акрамя незабыўных уражаньняў, ён пакінуў нам тады трывалую памятку — адзінаццаць беларускіх народных песень, якія запісала на

---

[1] “Lidová demokracie” (“Народная дэмакратыя”) — штодзённая газета, якая выдавалася ў Празе з 1945 г., афіцыйны орган Чэхаславацкай народнай партыі. — *А.П.*

[2] Галкоўскі Канстанцін (1875—1963) — беларускі кампазытар. — *А.П.*

[3] Аладаў Мікалай (1880—1972) — беларускі кампазытар. — *А.П.*

грампласьцінку польская фірма "Муза". З таго часу мінула больш дзесяці гадоў, але сустрэчы на Беласточчыне ўсё яшчэ жывыя ўва ўспамінах мастака. "Не забудзьцеся перадаць мае найлепшыя прывітаньні чытачам «Нівы»", — гаворыць Забэйда. З прыемнасьцю выконваю гэтую просьбу.

Мастацкая і пэдагагічная дзейнасьць Міхася Забэйды атрымала высокую ацэнку чэхаславацкага грамадзтва. Віншуючы мастака з нагоды юбілею, старшыня Саюзу чэхаславацкіх кампазытараў К.П. Садлё[4] пісаў: "...пры гэтай нагодзе прыміце, просім, нашу шчырую падзяку за ўсё тое, што Вы зрабілі ў галіне песьні". Юбілей Забэйды ўшанавала праскае радыё канцэртам беларускіх песень у выкананьні нашага слаўнага земляка. Тых песень, нястомным папулярызатарам якіх быў ён тут на працягу многіх гадоў.

У апошні час Забэйда выступае ўжо нячаста. Ды вось толькі што адзначыўшы сваё 75–годзьдзе зноў бачым артыста на сцэне канцэртнай залі ў Люгачовіцах, дзе 21 ліпеня 1975 году ён выступіў з канцэртам "красных пісьні"[5], які злажыўся з дваццаці твораў розных кампазытараў, а ў іх ліку і "Лета" Туранкова. Рэпартэрская звычка дыктуе пытаньне, ці не было далейшых канцэртаў. "Не, не было, — адказвае Забэйда бяз радасьці, — але я яшчэ магу засьпяваць!" Веру ў гэта. Так як веру ў тое, што песьня — гэта жыцьцё Забэйды!

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1976. 8 жніўня.

[4] Садлё (Sádlo) Карэл Праваслаў (1898—1971) — чэскі віялянчэліст, пераможца многіх міжнародных музычных конкурсаў, прафэсар Чэхаславацкай акадэміі музычнага мастацтва. — *А.П.*
[5] "красных пісьні" — прыгожых песьняў (з чэскай мовы). — *А.П.*

# Беласточчына на варштаце дасьледчыкаў

За пасьляваенны пэрыяд польскімі дасьледчыкамі была праведзена значная работа па вывучэньні разнастайных галінаў мінулага і сучаснасьці Беласточчыны. Мовазнаўства, матэрыяльная і духоўная культура, археалёгія, гісторыя, прыродныя ўмовы, эканоміка і сацыялёгія — гэта далёка ня поўны пералік шматграннай сфэры зацікаўленьня вучоных. Асабліва плённымі ў гэтай галіне былі апошнія 10—15 гадоў, калі Польскай акадэміяй навук, Беластоцкім навуковым таварыствам, унівэрсытэтамі, музэямі і іншымі навуковымі ўстановамі краіны былі апублікаваны параўнальна многія апрацоўкі і матэрыялы, прысьвечаныя Беласточчыне.

Гэта зьява невыпадковая. Беласточчына для дасьледчыкаў ёсьць вельмі атракцыйнай тэмай, паколькі яна ставіць перад вучонымі такія пытаньні, якія не сустракаюцца ў ніякім іншым раёне ПНР. Вынікаюць яны ў значнай меры зь непаўторнай асаблівасьці нашага рэгіёну, якую стварае адвечны стык польскай, беларускай і літоўскай этнікі, да таго не пазбаўлены яшчэ і элемэнтаў мусульманскага арыенту. Тут суіснуюць, перапляпляюцца, узаемна ўплываюць адна на другую розныя народныя культуры, мовы, звычаі і традыцыі.

Узьнікненьне і разьвіцьцё Беларускага грамадзка–культурнага таварыства аказала немалы ўплыў на рост зацікаўленьня фальклёрам, этнаграфіяй і іншымі відамі народнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны, мясцовымі дыялектамі, а таксама складанымі, але цікавымі пытаньнямі яго гісторыі і сучаснага жыцьця. Дарэчы, само Таварыства, улічваючы вялікае значэньне навуковых дасьледаваньняў, вырашыла не аставацца з боку ад гэтай дзейнасьці. Аб гэтым сьведчыць пастанова першага ўстаноўчага зьезду БГКТ, якая абавязвала Таварыства арганізаваць дасьледаваньні, прысьвечаныя разнастайным пытаньням беларускай нацыянальнай меншасьці ў ПНР і публікаваць іх вынікі.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задач быў арганізаваны навуковы гурток — спэцыяльны дапаможны орган БГКТ. Фармальнай падставай яго дзейнасьці ёсьць статут БГКТ, які, між іншым, пастанаўляе: “Мэтай Таварыства зьяўляецца арганізацыя і падтрымка беларускай мастацкай і навуковай творчасьці, выдавецкай дзейнасьці і г.д.” (Статут БГКТ, разьдзел III, параграф 7).

Асновай фактычнай дзейнасьці навуковага гуртка ёсьць супрацоўніцтва з дасьледчыкамі — спэцыялістамі акрэсьленых навуковых дысцыплін, досьледы якіх уваходзяць у сфэру зацікаўленьня Беларускага грамадзка–культурнага таварыства. Дасягаецца гэта шляхам плянаваньня і каардынацыі тэмаў, іх абмеркаваньня і публікацыі.

Вынікі дзейнасьці БГКТ на ніве навукі, якія вымяраюцца колькасьцю і якасьцю апублікаваных працаў, ня могуць з зразумелых прычынаў раўняцца з дваццацігадовымі дасягненьнямі Таварыства ў галіне грамадзкай і культурна–асьветнай працы. Тым ня менш яны заслугоўваюць увагі. Да гэтай пары былі выпушчаны тры “Навуковыя зборнікі” (1961, 1964 і 1974 г.), якія, нягледзячы на пэўныя недахопы, адыгралі дадатную ролю.

Вялікая работа была праведзена ў галіне зьбіральніцтва беларускага фальклёру Беласточчыны. За мінулае дваццацігодзьдзе толькі ў тыднёвіку “Ніва” і “Беларускіх календарах” было надрукавана амаль 600 арыгінальных песень, казак, легенд і іншых відаў мясцовай народнай творчасьці. Асаблівай увагі заслугоўваюць публікаваныя “Нівай” ад вясны 1972 году поўнасьцю дакумэнтаваныя фальклёрныя запісы з нотамі ў апрацоўцы М. Гайдука.

Істотныя зьмены наглядаюцца таксама ў тэматычнай накіраванасьці навуковых

публікацыяў БГКТ. Калі на першым этапе пераважная іх частка прысьвячалася агульнабеларускім пытаньням (гісторыя, рэвалюцыйны рух, літаратура і інш.), то ў апошнія гады ўвагу дасьледчыкаў займае ўва ўсё большай меры вывучэньне акрэсьленых пытаньняў, зьвязаных непасрэдна з нашым рэгіёнам — Беласточчынай. Такая канцэпцыя, з аднаго боку, лепш адпавядае сучаснай мэтадалёгіі грамадзкіх навук, а з другога — стварае магчымасьць атрымліваць больш канкрэтныя вынікі дасьледаваньняў.

За такой канцэпцыяй прамаўляе таксама факт, што над пытаньнямі ў шырокіх агульнапольскіх і агульнабеларускіх маштабах працуюць вялікія спэцыялізаваныя навуковыя калектывы ў Польшчы і Беларусі. Рэгіянальная праблематыка Беласточчыны, нягледзячы на значны прагрэс, дасягнуты ў яе вывучэньні, ёсьць практычна невычэрпнай крыніцай новых арыгінальных і салідных досьледаў. Датычыць гэта, у прыватнасьці, цэлага комплексу пытаньняў, якія выступаюць на беларускім і пераходным польска–беларускім моўных абшарах Беласточчыны.

Стан і патрэбы вывучэньня паасобных пытаньняў далёка не аднолькавыя. Параўнальна лепшых вынікаў дасягнулі на працягу мінулага стагодзьдзя моваведы Варшаўскага ўнівэрсытэту і Польскай акадэміі навук у дасьледаваньні моўных асаблівасьцяў беларускага насельніцтва Беласточчыны. За гэты час была апублікавана значная колькасьць навуковых прац, як, напрыклад, “Тэксты гаворак зь Беласточчыны” пад рэдакцыяй праф. др. А. Абрэмбскай–Яблонскай, працы моваведаў др. Э. Смулковай, др. М. Кандрацюка, др. С. Глінкі, мгр. Г. Багроўскай і інш., сярод іх некаторыя ў “Навуковых зборніках” і іншых выданьнях БГКТ. Падрыхтаваны да друку дыялекталягічны атляс Беласточчыны.

Запісы беларускіх фальклёрных тэкстаў, апублікаваныя дагэтуль у “Ніве” і “Беларускіх календарах”, нягледзячы на значную іх колькасьць, усё яшчэ не дастатковыя як з пункту гледжаньня дасьледаваньня жанраў, так і тэрытарыяльнага ахопу. У гэтым сэнсе лепш дасьледаваныя мясцовасьці Бельскага, Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў, а горш — Сямяціцкага, Сакольскага і Дуброўскага паветаў. Вялікая колькасьць тэкстаў была запісана за мінулае дзесяцігодзьдзе студэнтамі Варшаўскага ўнівэрсытэту, на жаль, да гэтай пары толькі невялічкая частка была апублікавана (да таго бяз нот).

Хочацца заўважыць, што публікаваны да гэтай пары “сыры” матэрыял ужо стварае добрую падставу для напісаньня аналітычных прац, прысьвечаных народнай культуры беларусаў Беласточчыны. Такія магчымасьці, несумненна, будуць расьці ў меру ўключэньня ў навуковы зварот новых фальклёрных тэкстаў. Значную цікавасьць выклікаюць таксама магістарскія працы, напісаныя студэнтамі беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту пад навуковым кіраўніцтвам др. А. Баршчэўскага.

Важнай, надзвычай цікавай тэмай для дасьледчыкаў магло б быць, урэшце, вывучэньне ўзаемных сувязяў і пранікненьня народных культур на пераходным моўным абшары. Аб вялікім зацікаўленьні гэтай справай сьведчыць хаця б слаўная “Канапелька” Э. Рэдлінскага[1].

Вывучэньнем матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны займаецца, між іншым, вядомы этнограф мгр. М. Пецюкевіч, праца якога “Матэрыяльная культура Сакольшчыны” была апублікавана ў “Навуковым зборніку” (1964). У апошнія гады аўтар закончыў апрацоўку чарговых работ, прысьвечаных традыцыйнай апрацоўцы валакністых расьлін і ткацтву на Беласточчыне. Іх публікацыя прадугледжваецца ў наступным “Навуковым зборніку”.

Важнай дзялянкай зацікаўленьня БГКТ ёсьць грамадзкія пытаньні Беласточчыны, у прыватнасьці, вывучэньне працэсаў, якія ўплывалі на эканамічнае і культурнае разьвіцьцё мясцовага беларускага насельніцтва ў мінулым і якія працягваюць уплы-

[1] Рэдлінскі Эдвард (нар. 1940) — польскі пісьменьнік, ураджэнец Беласточчыны. У аповесьці “Канапелька” апісаў сутыкненьне вясковай мэнтальнасьці з гарадзкой цывілізацыяй. — *А.П.*

ваць на яго ў сучаснасьці. Гэта шырокі дыяпазон гістарычных, эканамічных і сацыялягічных пытаньняў, які ўлучае, між іншым, гісторыю рэвалюцыйнага руху, разьвіцьцё гаспадаркі, асьветы і культуры.

Патрэбы дасьледаваньняў у гэтай сфэры адчуваюцца асабліва востра, паколькі памянёныя праблемы вывучаны да гэтай пары ў выключна незадавальняючай ступені. Возьмем да прыкладу гісторыю "Грамады", якой было прысьвечана некалькі сур'ёзных працаў, апублікаваных у "Навуковых зборніках" і "Беларускіх календарах"[2], якія, аднак (акрамя некалькіх эпізадычных успамінаў), амаль не пашырылі нашых ведаў аб дзейнасьці гэтай арганізацыі ў канкрэтных умовах Беласточчыны. Іншым тыповым прыкладам мізэрнай знаёмасьці ўласнага панадворока могуць быць працы др. Ул. Паўлючука, прысьвечаныя дэзынтэграцыі традыцыйных праваслаўных асяродзьдзяў на Беласточчыне. Яны выклікалі "сьвятое абурэньне" многіх нашых крытыкаў, якія, аднак, акрамя эмацыйных адгалосак, не змаглі ім супрацьпаставіць па сутнасьці ніякіх сэнсоўных аргумэнтаў.

Можна спадзявацца, што ўзрастаючая зацікаўленасьць і досьвед, які прыходзіць з часам, створаць надзейную пэрспэктыву для дасьледаваньняў у сфэры грамадзкіх навук. Сярод гэтых пытаньняў павінна аказацца таксама спроба навуковага абагульненьня дваццацігадовай дзейнасьці БГКТ і ролі нашай арганізацыі ў палітычных, грамадзкіх і культурных пераўтварэньнях, якія за гэты час наступілі ў беларускіх асяродзьдзях Беласточчыны.

Істотнай сфэрай зацікаўленьня навуковага гуртка ёсьць таксама польска–беларускія сувязі ў мінулым і сучаснасьці. Неабходна пры гэтым выяўляць элемэнты ўзаемнага супрацоўніцтва ў розных галінах грамадзкага жыцьця, а таксама ў навуцы, літаратуры і культуры.

Важнай падзеяй у працы навуковага гуртка ёсьць пачатае некалькі гадоў таму творчае супрацоўніцтва зь Беластоцкім навуковым таварыствам. Яно мае істотнае значэньне для павышэньня ўзроўню працаў, публікаваных у "Навуковых зборніках": яны цяпер рэцэнзуюцца вядомымі польскімі спэцыялістамі і павінны адпавядаць высокім іх патрабаваньням. Супрацоўніцтва з БНТ ажыцьцяўляецца таксама пры выданьні і распаўсюдзе "Навуковых зборнікаў".

*Друкуецца паводле:* Беларускі каляндар. Беласток, 1976.

[2] Маюцца на ўвазе ў першую чаргу публікацыі Аляксандры Бэргман "Беларуская сялянска–работніцкая грамада (1925—1927)" (Навуковы зборнік. 1964. С. 95—130) і "Грамада праз 50 год" (Беларускі каляндар на 1975 год. С. 142—159), а таксама Вінцэнта Склубоўскага "40 год Грамады на Беласточчыне" (Беларускі каляндар на 1967 год. С. 93—118).

# Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасьляваенны пэрыяд

**Даклад на навукова–папулярнай сэсіі, прысьвечанай XX–годзьдзю Беларускага грамадзка–культурнага таварыства**

## Уступнае слова

Праблематыка беларускага школьніцтва была важнай складовай часткай праграмы дзейнасьці Беларускага грамадзка–культурнага таварыства на працягу ўсёй яго дваццацігадовай гісторыі. Гэтая зацікаўленасьць таварыства абумоўлена тым, што абсяг і ўзровень навучаньня ў беларускай мове ў школах ёсьць адным з важнейшых фактараў у працэсе разьвіцьця нацыянальнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны.

Кампэтэнцыі і сродкі дзейнасьці БГКТ у галіне асьветы даволі складаныя. Як вядома, таварыства не кіруе працэсам навучаньня беларускай мовы, якое ажыцьцяўляецца дзяржаўнымі органамі школьнай адміністрацыі. Гэта, аднак, не абазначае, што яно ў гэтай галіне ёсьць толькі пасіўным наглядальнікам. Статут БГКТ, а таксама дакумэнты Нацыянальнай камісіі і міністэрства асьветы стварылі таварыству магчымасьць судзейнічаць у працы кампэтэнтных установаў і дапамагаць ім у вырашэньні пытаньняў, якія датычаць беларускага школьніцтва. Такая дапамога ажыцьцяўлялася таварыствам шляхам інфармаваньня партыйных і асьветных уладаў аб становішчы ў школах, а таксама фармуляваньне прапановаў і праектаў рашэньняў, згодных з інтарэсам культурнага разьвіцьця нашай нацыянальнай меншасьці.

Такая кансультацыйная роля БГКТ паказвае, з аднаго боку, на параўнальна сьціплыя магчымасьці дзеяньня таварыства ў галіне асьветы, з другога, аднак, — на яго немалую маральна–палітычную адказнасьць за лёс навучаньня роднай мовы ў школах. У такім пляне БГКТ вымушана быць у курсе ўсіх істотных пытаньняў, якія датычаць навучаньня беларускай мовы, мае абавязак вывучаць асьветныя запатрабаваньні нашага насельніцтва, становішча ў галіне настаўніцкіх кадраў і падручнікаў, а таксама распараджэньні асьветных уладаў і падтрымліваць зь імі неабходную сувязь.

Пасьляваенная гісторыя беларускага школьніцтва на Беласточчыне не супадае з гісторыяй нашага таварыства. У лютым 1956 г., калі ўзьнікла БГКТ, беларускае школьніцтва мела ўжо за сабой 12 гадоў складанага разьвіцьця, а таксама немалыя дадатныя рэзультаты. Няма сумневу, што дзейнасьць школаў у значнай меры прычынілася да паўстаньня БГКТ. Гэтая акалічнасьць стварае дадатковае абгрунтаваньне для таго, каб прасачыць усе этапы пасьляваеннага разьвіцьця школьніцтва, тым больш, што акрамя некалькіх павярхоўных артыкулаў, апублікаваных у “Ніве”, “Беларускіх календарах” і некаторых польскіх часопісах, дасюль не паявілася ў друку зьмястоўнай апрацоўкі гэтага пытаньня.

Улічваючы абмежаваны час выступленьня, у дакладзе падаюцца перадусім генэза, пэрыядызацыя і найбольш істотныя працэсы звыш трыццацігадовай пасьляваеннай гісторыі беларускіх школаў і асьветы ў роднай мове.

## Генэзіс і першы этап (1944—1948)

Аднаўленьне беларускага школьніцтва на парозе польскай народнай дзяржаўнасьці пачалося непасрэдна пасьля вызваленьня ў канцы ліпеня 1944 г. усходніх раёнаў Бела-

сточчыны ад нямецкай акупацыі. Падрыхтоўка да новага навучальнага году адбылася па сутнасьці на працягу аднаго месяца жніўня, да таго ўва ўмовах, якія нічым не напаміналі нармальных мірных умоў.

Вайна працягвалася, пераважная частка Польшчы была яшчэ акупавана немцамі, а службовыя зносіны паміж Беластокам і Люблінам — месцазнаходжаньнем Польскага камітэту нацыянальнага вызваленьня[1] — былі вельмі абмежаваныя і ладзіліся пры выкарыстаньні ваеннага транспарту. У арганізацыйнай стадыі былі павятовыя і гмінныя органы народнай улады. Не інакш было ў самім Беластоку, дзе ваяводзкая ўправа і школьная куратория пачалі сваю афіцыйную дзейнасьць толькі 28 жніўня 1944 г.

У такіх складаных акалічнасьцях аднаўленьне працы школаў на вызваленых землях Беласточчыны не папераджалася падрабязнымі распараджэньнямі люблінскіх уладаў. Справа аднаўленьня дзейнасьці беларускіх школаў (стан школьных памяшканьняў, наяўнасьць падручнікаў, настаўніцкія кадры і інш.) вырашалася самім зацікаўленым насельніцтвам, на колькі дазвалялі тагачасныя ўмовы. Палітычнай падставай гэтых рашэньняў была праграма нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня, якую прадстаўляла польская дэмакратыя.

Спамянутая ініцыятыва насельніцтва спаткалася з ухвалай і падтрымкай упаўнаважанага ПКНВ на Беластоцкае ваяводзтва Л. Барковіча. У паразуменьні зь ім у канцы жніўня 1944 г. у Люблін камандзіруецца прадстаўнік ваяводзкіх асьветных уладаў П. Кізевіч, які атрымаў ад кіраўніцтва ведамства асьветы ПКНВ, Ст. Скшэшэўскага[2], прынцыповую вусную згоду на адкрыцьцё беларускіх школаў на Беласточчыне[3].

Такім чынам, не чакаючы поўнага афармленьня справы, у верасьні 1944 г. пачаліся заняткі ў 81 пачатковай школе зь беларускай мовай навучаньня, у 9 дзьвюхмоўных польска–беларускіх школах і ў 3 школах, у якіх беларуская мова вывучалася як адзін з прадметаў[4].

Адначасна адкрыліся тры сярэднія школы — Беларуская гімназія і ліцэй у Бельску (дырэктар — Анатоль Тымінскі), Беларуская гімназія ў Гайнаўцы (дырэктар Ніна Нічыпарук, а пасьля яе трагічнай сьмерці ў кастрычніку 1944 г. — Васіль Бахар) і Беларуска–расейская гімназія ў Беластоку на Кіеўскай вуліцы (дырэктар — Ганна Цімафеева).

Істотным ёсьць пытаньне, як на працягу такога кароткага часу можна было арганізаваць без матэрыяльнай дапамогі школьных уладаў і адкрыць у верасьні 1944 г. параўнальна вялікую колькасьць — амаль сотню пачатковых і сярэдніх школаў, у якіх беларускую мову вывучала звыш 8000 вучняў. Без высьсненьня гэтага пытаньня немагчыма зразумець генэзы беларускага школьніцтва ў Польскай Народнай Рэспубліцы.

У сувязі з гэтым неабходна заўважыць, што беларускія школы ня ўзьніклі на пустым

[1] Польскі камітэт нацыянальнага вызваленьня (ПКНВ) — часовы орган улады на тэрыторыі Польшчы, занятай савецкімі войскамі ў 1944 г. Уключаў сяброў польскіх левых партыяў. Знаходзіўся ў горадзе Любліне. 31 сьнежня 1944 г. ператвораны ў часовы ўрад Польскай рэспублікі. — *А.П.*

[2] Скшэшэўскі Станіслаў (1901—1978) — польскі дзяржаўны дзяяч, у 1944 г. — кіраўнік аддзелу асьветы ў ПКНВ, у 1944—1945 і 1947—1950 г. міністар асьветы Польскай Народнай Рэспублікі, у 1951—1956 г. — міністар замежных справаў. — *А.П.*

[3] Інфармацыя Піліпа Кізевіча зь Беластоку, атрыманая аўтарам 21.3.1965 г.

[4] Пытаньне аднаўленьня беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў 1944 г. да гэтай пары амаль не дасьледавалася. У выніку, ува ўмовах адсутнасьці дакумэнтальных распрацовак, вакол гэтага пытаньня ўзьнікалі разнастайныя меркаваньні, якія не заўсёды адпавядалі рэчаіснасьці. Прыкладам гэтага ёсьць публікацыя Любы Філіпік у галіне асьветы, зьмешчаная ў “Беларускім календары на 1962 год” (с. 91), у якой аўтары сьцьвярджаюць, што “ў першыя гады народнай улады на тэрыторыі Беластоцкага ваяводзтва арганізавана звыш 200 школаў, у якіх дзеці навучаліся на беларускай мове або вывучалі родную мову як прадмет”. Бліжэйшы праўды Станіслаў Пячкоўскі, які піша, што ў 1944/45 г. на Беласточчыне было адкрыта 86 школаў зь беларускай мовай навучаньня // Nowa Szkoła. 1971. № 10.

месцы, а працягвалі сваю дзейнасьць у тых мясцовасьцях, дзе яны паўсталі ў часе савецкай улады (1939 г.) і змаглі праіснаваць у гады нямецкай акупацыі[5].

Такім чынам, восеньню 1944 г. былі ўжо і неабходныя традыцыі, і настаўніцкія кадры, хаця ўзровень пэдагагічнай падрыхтоўкі настаўнікаў быў далёкім ад здавальняючага. Былі таксама і рэшткі беларускіх савецкіх падручнікаў. Гэтыя аб'ектыўныя ўмовы пры адначасным вялікім энтузіязьме вызваленага Чырвонай Арміяй насельніцтва стварылі чыньнікі аднаўленьня даволі шырокай сеткі беларускіх школаў ува ўмовах новай польскай дзяржавы.

Гэтае аднаўленьне, якое — як сьцьвярджалася вышэй — адбылося па сутнасьці стыхійна, без падрабязнага афармленьня, выклікала ў недалёкай будучыні сур'ёзныя ўскладненьні. Як паказваюць архіўныя крыніцы, стаўленьне ведамства асьветы ПКНВ да беларускага школьніцтва не было пасьлядоўным і фармавалася ўва ўмовах ужо існага фактычнага стану, г.зн. пасьля таго, як школы пачалі сваю дзейнасьць. Так, першы юрыдычны акт ПКНВ у гэтай справе быў абвешчаны 3 кастрычніка 1944 г. з наступным зьместам:

> Згодна з прынцыпамі сапраўднай дэмакратыі Польскі камітэт нацыянальнага вызваленьня прызнае за рознымі нацыянальнасьцямі, якія пражываюць на польскіх землях, права свабоднага разьвіцьця і культываваньня асобных нацыянальных адметнасьцяў. Зыходзячы з гэтых чыньнікаў, ведамства асьветы ўпаўнаважвае кураторыю Беластоцкай школьнай акругі арганізаваць для дзяцей беларускай нацыянальнасьці пачатковыя школы зь беларускай мовай навучаньня згодна з правіламі, якія стасуюцца да школаў з польскай мовай навучаньня[6].

Гэты дакумэнт, хаця легалізаваў ужо існае становішча, меў несумненна важнае значэньне. У прыватнасьці, ён акрэсьліў асноўныя прынцыпы нацыянальнай палітыкі ўзьнікаючай польскай народнай дзяржавы і фармуляваў прызнаньне за беларускім насельніцтвам Беласточчыны права на асьвету ў роднай мове. Аднак амаль адначасна кіраўнік ведамства асьветы Ст. Скшэшэўскі адхіліў пакладзены ўпаўнаважаным ПКНВ на Беластоцкае ваяводзтва Л. Барковічам праект мерапрыемстваў, якія прадугледжвалі арганізацыйнае ўмацаваньне беларускага школьніцтва. Аргумэнтуючы сваё рашэньне, ведамства спасылалася на ажыцьцяўлёную ў той час перасяленчую акцыю беларусаў з Польшчы ў БССР[7].

Такая пастаноўка справы стварыла сярод асьветных органаў усіх інстанцыяў клімат часовасьці, які характарызаваў усе іх дзеяньні на працягу 1945—1948 г.

Няма патрэбы даказваць, што найбольшымі цяжкасьцямі, зь якімі ў аднаўленчы пэрыяд змагалася ўсё польскае школьніцтва, быў недахоп падручнікаў і кваліфікаваных настаўнікаў. Гэтыя цяжкасьці ў беларускіх школах былі, зразумела, яшчэ большымі. Савецкіх падручнікаў было няшмат, да таго яны адрозьніваліся ад польскай школьнай праграмы і не дапускаліся ведамствам асьветы ПКНВ да выкарыстаньня ў школах[8].

Адначасна ўсяго каля 25% настаўнікаў беларускіх школаў мела неабходныя пэдагагічныя кваліфікацыі, а астатняя іх частка — толькі мінімальную падрыхтоўку, атрыманую ў 1940 г. на абласных пэдкурсах у Беластоку і Берасьці. Такія кадры маглі выкарыстоўвацца з памяркоўным посьпехам у клясах I—IV і то толькі пры дастатковым забесьпячэньні школаў падручнікамі і ўва ўмовах мэтадычнага нагляду. Яшчэ горшыя былі

---

[5] Туронак Ю. Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе (1941—1944). С. 772—789 нашага выданьня. — *Рэд.*

[6] Архіў новых актаў у Варшаве. Акты ПКНВ сыгн. XIV/17 ліст ведамства асьветы ПКНВ Беластоцкаму куратару № 11–Р–604/44 ад 3.10.1944 г.

[7] Тамсама; ліст ведамства асьветы Беластоцкаму куратару № 1–0–624 ад 24.10.1944 г.

[8] Тамсама.

ўмовы для рэалізацыі праграм навучаньня ў вышэйшых клясах пачатковых школаў.

Зразумела, што асабліва нездавальняючым было становішча ў галіне падручнікаў і пэдагагічных кадраў у сярэдніх школах. Як паказалі вынікі візытацыі, праведзенай восеньню 1945 г. інспэктарамі куратарыі ў Беларускай гімназіі і ліцэі ў Бельску і ў беларуска–расейскай гімназіі ў Беластоку, а таксама як сьведчаць іх былыя вучні, амаль усе настаўнікі гэтых школаў з прычыны недастатковай знаёмасьці зь беларускай мовай вялі заняткі па–расейску. Выняткова становішча было ў гайнаўскай Беларускай гімназіі, дырэктар якой мгр. Ніна Нічыпарук згуртавала пэдагагічны калектыў, які забясьпечыў вывучэньне па сутнасьці ўсіх прадметаў па–беларуску. Працавалі там Васіль Бахар[9], Васіль Літвінчык, Людміла Панько, Алена Панько, Юры Голуб, а. Сэрафім Жалезьняковіч і іншыя.

У гэтых складаных акалічнасьцях на ўвагу заслугоўвае ініцыятыва асьветных уладаў павышэньня ў кароткатэрміновым пляне ўзроўню навучаньня ў беларускіх школах. Яна знайшла выражэньне ўва ўказаньнях ведамства асьветы ПКНВ аб мерах павышэньня кваліфікацыі настаўнікаў і выпуску спэцыяльнага часопіса, які пры нястачы падручнікаў меў быць адным з найважнейшых дапаможнікаў у працэсе навучаньня[10].

Аднак у першыя пасьляваенныя гады ажыцьцявіць гэтыя ўказаньні было амаль немагчыма. Найважнейшым фактарам, які паралізаваў успамянутыя праекты і пачынаньні, была адсутнасьць спэцыялістаў у беларускай мове і літаратуры. З гэтай прычыны пакліканая ў кастрычніку 1944 г. пры Беластоцкай куратарыі "Рэдакцыйная камісія дапаможных выданьняў для беларускіх школаў", старшынём якой быў тагачасны школьны падынспэктар на Беластоцкі павет Іван Краскевіч, не разгарнула практычнай дзейнасьці. З гэтай самай прычыны не знайшліся выкладчыкі па мове і літаратуры на кваліфікацыйны курс, які арганізавала ў сьнежні 1944 г. Беластоцкая куратарыя для настаўнікаў беларускіх школаў[11].

Два ўпамянутыя фактары, а менавіта перасяленчая акцыя і адсутнасьць уласных сілаў для павышэньня ўзроўню навучаньня, былі асноўнымі аргумэнтамі, якімі ў 1946—1947 г. паслугоўвалася Беластоцкая куратарыя для абгрунтаваньня ліквідацыі беларускага школьніцтва[12]. У якой меры яны адпавядалі сапраўднасьці?

Няма сумневу, што неадпаведны ўзровень навучаньня ў беларускіх школах ня быў у той час выняткавай зьявай і што гэтыя цяжкасьці маглі быць вырашаны толькі шляхам ажыцьцяўленьня некалькігадовай праграмы падрыхтоўкі настаўнікаў і школьных падручнікаў. Аднак такую магчымасьць школьная адміністрацыя ня брала пад увагу, спасылаючыся на перасяленчую акцыю, якая магла карэнным чынам зьмяніць усю пастаноўку беларускага пытаньня ў Польшчы, у тым ліку і школьніцтва. Як паўплывала гэтая акцыя на разгляданае пытаньне?

Як паказваюць статыстычныя дадзеныя, з агульнай колькасьці перасяленцаў зь Беласточчыны звыш 90% выехала ў СССР ужо да канца 1945 г.[13]. Такім чынам, на пачатку 1946 г. было відавочна, што перасяленчая акцыя па сутнасьці нічога не зьмяніла і што асноўная маса беларускага насельніцтва пажадала не пакідаць Беласточчыну. Адсюль несумненны вывад, што перасяленьне насельніцтва не было прычынай спамяну-

[9] Бахар Васіль — паходзіў з Наваградчыны, скончыў Наваградзкую беларускую гімназію. У 1944/45 навучальным годзе, падчас нямецкай акупацыі, заснаваў беларускую пачатковую школу ў Гайнаўцы, быў яе дырэктарам. Летам 1945 г. арыштаваны і вывезены ў лягер на тэрыторыі СССР.

[10] Ліст ведамства асьветы Беластоцкаму куратару № 1–0–624 ад 24.10.1944 г.

[11] Інфармацыя Івана Краскевіча зь Беластоку, атрыманая аўтарам 23.10.1966 г.

[12] Архіў міністэрства асьветы. Акты II дэпартамэнта сыгн. 102/50 ліст Беластоцкага школьнага куратара міністэрству асьветы № 11–5438/47 ад 27.3.1947 г. і далучаная справаздача візытатара В. Малеўскага ад 4.3.1947 г. (цытаваная ў абшырных фрагмэнтах у тыднёвіку "Życie Literackie" № 31(236) ад 29.7.1956 г.).

[13] Wiadomości Statystyczne. Выд. Галоўнага статыстычнага ўпраўленьня, 1946 і 1947 г.

тых рашэньняў.

Факт, што ліквідацыя беларускіх школаў праводзілася ў 1946—1947 гады, г.зн. ужо пасьля перасяленчай акцыі, паказвае на адсутнасьць у той час пазытыўнай праграмы ў адносінах да беларускай нацыянальнай меншасьці. Зьместоўную ацэнку тагачасных тэндэнцыяў даў візытатар Беластоцкай куратарыі В. Малеўскі ў сваёй справаздачы ад 4 сакавіка 1947 г. як наступнае:

> Тыя, якія засталіся на тэрыторыі Польшчы, ня могуць дамагацца аддзельнай школы, таму што, нягледзячы на іншую нацыянальнасьць, яны хочуць уключыцца ў польскі дзяржаўны арганізм[14].

Вядомая канцэпцыя "аднанацыянальнай дзяржавы", якая лягла ў аснову гэтых тэндэнцыяў, праз некалькі гадоў спаткалася з правільнай марксісцка–ленінскай ацэнкай ПАРП, а ліквідацыя школьніцтва была акрэсьлена польскай грамадзкай думкай як "крыўда, зробленая беларускаму насельніцтву Беласточчыны"[15].

На гэтым можна было б закончыць характарыстыку першага этапу пасьляваеннае гісторыі беларускага школьніцтва, калі б не некаторыя спробы яе перайначваньня. Так, у 1969 г. гісторык асьветы Ст. Маўэрсбэрг выказаў погляд, быццам ліквідацыя школаў адбылася толькі ў "сфэры статыстыкі", тады як у сапраўднасьці ў 1947 і 1948 г. на Беласточчыне дзейнічала звыш дзесяці беларускіх школаў, якія толькі не выказваліся ў справаздачах[16]. Адначасна сугераваўся вывад, што ў пасьляваеннай дзейнасьці школаў па сутнасьці перапынку не было.

Рэчаіснасьць, на жаль, была іншай. У выніку дзейнасьці павятовых школьных інспэктараў, якім выдатна дапамагалі некаторыя кіраўнікі школаў, арганізуючы "добраахвотныя" дэкларацыі бацькоў аб спыненьні навучаньня ў беларускай мове, на працягу 1946/47 школьнага году гэтае пытаньне было амаль поўнасьцю вырашана (гл. табліцу 1). Няшмат было настаўнікаў, якія не згадзіліся на спыненьне навучаньня ў роднай мове. Так, у наступным 1947/48 г. зь беларускай мовай навучаньня было яшчэ шэсьць школаў — у Вітаве, дзе вучыў Кірыла Баравік, у Войшках (Кацярына Рамановіч), Галадах (Іван Якубовіч), Курашаве (Зянон Анхімюк), Паўлах (Натальля Бараноўская) і ў Сьпічках (Хвядора Анапюк). Большасьць гэтых настаўнікаў была, аднак, пераведзена ў іншыя школы, у выніку чаго ў наступным 1948/49 г. на Беласточчыне не было ані аднаго пункту навучаньня беларускай мовы.

**Табліца 1.** Колькасьць пачатковых школаў на Беласточчыне з навучаньнем на беларускай мове

| Катэгорыі школаў | 1944/45 | 1945/46 | 1946/47 | 1947/48 |
|---|---|---|---|---|
| Агулам школаў | 93 | 79 | 60 | 6 |
| у тым ліку: | | | | |
| зь беларускай мовай навучаньня | 81 | 67 | 38 | 6 |
| дзьвюхмоўныя | 9 | 8 | 2 | – |
| з прадметам беларускай мовы | 3 | 4 | 20 | – |

*Крыніца:* Апрацоўка аўтара на падставе школьных аркушаў ацэнак і дакумэнтацыі павятовых школьных інспэктараў.

## Другі этап: аднаўленьне і разьвіцьцё (1949—1969 г.)

Летам 1949 г. пасьля дасьледаваньня спамянутых падзеяў і асьветных патрэбаў насельніцтва Польская аб'яднаная рабочая партыя прыняла адпаведныя меры для аднаў-

[14] Гл. зноску № 9.
[15] Trybuna Ludu. 9.9.1955; Życie Literackie. 29.7.1956. С. 3.
[16] Życie Literackie. 8.9.1968. С. 6.

леньня беларускага школьніцтва. Увасабленьнем гэтага была гістарычная пастанова Сакратарыяту ЦК ПАРП ад 28 чэрвеня 1949 г., якая сталася зыходным пунктам новага пэрыяду яго разьвіцьця. Выконваючы ўказаньні ЦК, 6 жніўня 1949 г. міністар асьветы Г. Яблонскі загадваў беластоцкаму куратару наступнае:

> З увагі на тое, што ў Беластоцкай школьнай акрузе пэўную частку насельніцтва складае насельніцтва беларускае, міністэрства асьветы загадвае арганізаваць і адкрыць ад 1 верасьня 1949 году пачатковыя школы зь беларускай мовай навучаньня ў мясцовасьцях, у якіх пражывае гэтае насельніцтва.

Адначасна міністрам былі дадзены падобныя ўказаньні адносна арганізацыі агульнаадукацыйных ліцэяў.

Гэты дакумэнт стварыў падставу для ўсебаковай энэргічнай дзейнасьці ўсіх зацікаўленых органаў школьнай адміністрацыі. Зыходзячы з нармальнай трактоўкі значэньня роднай мовы, міністэрыяльныя прадпісаньні прадугледжвалі абавязковае навучаньне ў роднай мове для вучняў беларускай нацыянальнасьці, якое ажыцьцяўлялася згодна з добраахвотным рашэньнем бацькоў адпаведна ў школах зь беларускай або польскай мовай навучаньня.

### а) Акцыя арганізацыі школаў

Такім чынам, перад беларускім школьніцтвам адкрыліся магчымасьці, якіх ужо даўно не было. Цэнтральныя, ваяводзкія і павятовыя асьветныя ўлады ня толькі стваралі ўмовы, але і актыўна займаліся прапагандаваньнем і арганізацыяй беларускіх школаў.

На працягу наступных месяцаў міністэрства асьветы і мясцовыя органы школьнай адміністрацыі пачалі зь вялікай пасьпешнасьцю ажыцьцяўляць шырокую праграму аднаўленьня і разьвіцьця беларускага школьніцтва. Ужо ў верасьні 1949 г. адкрываюцца 24 пачатковыя школы зь беларускай мовай навучаньня, колькасьць якіх да канца 1949/1950 школьнага году ўзрасла да 39. Адначасна ў 20 пачатковых школах уводзіцца вывучэньне беларускай мовы ў якасьці аднаго з прадметаў. Восеньню 1949 г. адкрываюцца дзьве сярэднія агульнаадукацыйныя школы ў Бельску і Гайнаўцы, а таксама беларускія клясы пры Беластоцкім пэдліцэі. Прымаюцца рашэньні арганізаваць настаўніцкія курсы і выдаваць падручнікі ў перакладзе на беларускую мову.

Ня менш інтэнсіўна праводзілася гэтая акцыя таксама на працягу некалькіх наступных гадоў. У яе выніку ў 1954/55 г. на Беласточчыне было ўжо 66 пачатковых школаў зь беларускай мовай навучаньня і 90 школаў з прадметам беларускай мовы, у якіх разам вывучала родную мову 9128 вучняў. Акрамя таго, працавала пяць сярэдніх школаў: тры агульнаадуацыйныя ліцэі зь беларускай мовай навучаньня ў Бельску, Гайнаўцы і Міхалове, беларускія паралельныя клясы Бельскага пэдліцэю (перанесеныя ў верасьні 1950 г. зь Беластоку) і беларускія паралельныя клясы Беластоцкага ліцэю выхавацельніц дзіцячых садкоў з агульнай колькасьцю 878 навучэнцаў. Так, пачынаючы практычна зь нічога, на працягу пяці гадоў была створана на Беласточчыне разгалінаваная сыстэма беластоцкага школьніцтва.

Трывалыя вынікі гэтай акцыі былі абумоўлены шэрагам фактараў, сярод якіх найважнейшым было *кадравае пытаньне*. Кваліфікацыі настаўнікаў, якія так крытыкаваліся беспасярэдне пасьля вайны, не былі ані ў 1949, ані ў пачатку 50–х лепшымі, прынамсі ў галіне беларускай мовы. Недастатковая была таксама колькасьць настаўнікаў для забесьпячэньня навучаньня адной толькі беларускай мовы, не гаворачы ўжо аб іншых школьных прадметах. Арганізацыя пэдліцэю і накіраваньне моладзі ў савецкія вышэй-

шыя навучальныя ўстановы магло даць першых дыплямаваных настаўнікаў толькі праз пяць–шэсьць гадоў. Былі, праўда, арганізаваны кароткатэрміновыя курсы для настаўнікаў у Беластоку і Бельску (1950—1953 г.), у Аўгустове (1954 г.), Суляюўку (1955 г.), а таксама ў Мядзэшыне пад Варшавай (1956 г.), аднак яны давалі параўнальна невялікія эфэкты і былі, зразумела, толькі часовым сродкам.

Недастаткова падрыхтаваныя кадры настаўнікаў не маглі на працягу першых гадоў справіцца з сур'ёзнымі задачамі працы ў школах зь беларускай мовай навучаньня. Праўда, былі пэўныя цяжкасьці і з *падручнікамі*. Першыя падручнікі (па арытмэтыцы і геаграфіі) былі выпушчаны варшаўскім Дзяржаўным школьным выдавецтвам у 1951—1952 г., а па многіх іншых прадметах (беларуская мова, біялёгія, прыродазнаўства, гісторыя, геамэтрыя і інш.) толькі ў 1953—1956 г. Цяжкасьці ў працэсе навучаньня не выцякалі, аднак, з прычыны нястачы паасобных краёвых падручнікаў, паколькі школам пастаўляліся таксама значныя колькасьці беларускіх савецкіх падручнікаў, а з таго, што пераважная частка настаўнікаў проста ня ўмела імі карыстацца. Адсюль узьнікалі "тлумачэньні" аб непрыстасаванасьці савецкіх падручнікаў да польскай праграмы навучаньня, а калі ўжо былі свае — аб цяжкасьцях засваеньня вучнямі матэрыялу, ці наагул — мэтазгоднасьці навучаньня па–беларуску.

Неаднолькава ўспрымаліся школы зь беларускай мовай навучаньня і *насельніцтвам*, паколькі арганізаваліся яны па сутнасьці адміністрацыйным парадкам, хаця і з правільным улікам нацыянальнай структуры насельніцтва паасобных мясцовасьцяў. Вялікая частка гэтых школаў спаткалася зь несумненнай падтрымкай насельніцтва, сьведчаньнем чаго было іх шматгадовае існаваньне. У некаторых вёсках, напрыклад, у Рыбаках Нараўскай гміны, у Мокрым і Пілішках Бельскай гміны, само насельніцтва зьвярталася ў Бельскі павятовы школьны інспэктарат з патрабаваньнем адкрыць беларускія школы. Былі і такія мясцовасьці, як Дубяжын, Гацькі, Дубіны, Чаромха–вёска і Белавежа, насельніцтва якіх працівілася адкрыцьцю школаў зь беларускай мовай навучаньня, хаця яны там і плянаваліся асьветнымі ўладамі. Яшчэ інакш было ў гарадох — Бельску і Гайнаўцы, дзе восеньню 1949 г. вучням *праваслаўнага веравызнаньня ці паходжаньня* прапанавалася перайсьці ў адпаведныя клясы беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў.

Няма сумневу, што найбольш адмоўнай рысай гэтай школьнай акцыі была яе пасьпешлівасьць. Улады былі зацікаўлены ўва ўсё большай колькасьці беларускіх школаў, і беластоцкія школьныя органы рабілі ўсё магчымае, каб гэтую зацікаўленасьць задаволіць, нярэдка фабрыкуючы такія школы на паперы. Так, напрыклад, у справаздачы беластоцкага павятовага інспэктара за 1950/51 год школы ў Азяблах, Будах, Новай Волі, Рыбаках і Страшаве называліся школамі зь беларускай мовай навучаньня, хаця гэтая мова не вывучалася там нават як прадмет[17].

Зразумела, што калі б замест гонкі за паказчыкамі ў гэтай справе было больш клопатаў пра разьвіцьцё асьветы ў роднай мове, становішча школаў зь беларускай мовай навучаньня было б больш трывалае. Няцяжка ўявіць, што, калі б беларуская мова як мова навучаньня ня ўводзілася адразу ўва ўсіх клясах, але паступова з году ў год ахапляла ўсё вышэйшыя клясы, на працягу некалькіх гадоў вучні ня мелі б ніякіх цяжкасьцяў зь беларускай тэрміналёгіяй. За гэты час маглі быць ужо створаны найбольш неабходныя ўмовы, у першую чаргу — адпаведна падрыхтаваныя кадры настаўнікаў, безь якіх імкненьнеператварыць дзясяткі польскіх школаў у беларускія было мерапрыемствам калі не легкадумным, то, напэўна, нерэальным.

---

[17] Архіў міністэрства асьветы. Акты II дэпартамэнта сыгн. 102/59 справаздача кіраўніка аддзелу асьветы прэзыдыюму павятовай Рады нарадовай у Беластоку за 1950/51 год.

### б) Структурныя зьмены

Два фактары, а менавіта гонка за паказчыкамі ўва ўмовах недастатковай падрыхтаванасьці настаўнікаў, а таксама імкненьне бацькоў, несумненна, зацікаўленых у тым, каб іх дзеці атрымалі аднолькавыя з польскай моладзьдзю магчымасьці старту на вышэйшыя навучальныя ўстановы і ў жыцьцё, абумовілі нестабільнасьць створанай адукацыйнай сыстэмы.

Яшчэ ў палове 50–х гадоў выкарыстаньне роднай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах зь беларускай мовай навучаньня мела вялікія адрозьненьні ў асобных школах і клясах, а таксама ў навучаньні паасобных прадметаў. Неўзабаве выкарыстаньне беларускай мовы ў пачатковых школах абмяжоўваецца да клясаў I—IV, пасьля чаго — прыкладна ад паловы 60–х гадоў — да аднаго толькі прадмету роднай мовы, які навучаўся ад першай клясы і быў абавязковым для ўсіх вучняў школаў зь беларускай мовай навучаньня. Паступова сфармаваўся погляд і ў школьнай адміністрацыі і ў бацькоў, што справай найбольш істотнай ёсьць азнаямленьне вучняў як пачатковых, так і сярэдніх школаў зь беларускай мовай і літаратурай, а не навучаньне, напрыклад, фізыкі па–беларуску.

У такіх умовах, пачынаючы ад 1955/56 г., калі ўжо былі і падручнікі і пачалі паступаць маладыя кадры настаўнікаў, наглядаецца працэс рэарганізацыі школаў зь беларускай мовай навучаньня, якія ўжо фармальна пераходзяць на польскую мову навучаньня, захоўваючы толькі прадмет беларускай мовы. Ад гэтага часу пачынаецца шматгадовы пэрыяд структурных зьменаў у беларускім школьніцтве на Беласточчыне, які закончыўся ў 1971/72 г.

Адначасна зь зьмяншэньнем колькасьці школаў зь беларускай мовай навучаньня пашыраецца сетка т.зв. прадметных школаў. Гэты рост адбываўся як за лік новаарганізаваных пунктаў навучаньня (галоўным чынам на тэрыторыі былых Беластоцкага, Сакольскага і Сямяціцкага паветаў), так і ў выніку рэарганізацыі школаў зь беларускай мовай навучаньня. На працягу 1954/55—1970/71 г. колькасьць прадметных школаў узрасла з 90 да 145, а колькасьць іх вучняў, якія вывучалі беларускую мову — з 4486 да 9777.

У выніку гэтых структурных зьменаў з году ў год расло значэньне школаў з прадметам беларускай мовы. Калі ў 1954/55 г. на гэтыя школы прыходзілася 49% усіх школьнікаў, якія вывучалі родную мову, то ў канцы 60–х гадоў гэты ўдзел узрос да 88% і ў 1972/73 г. дасягнуў 100%.

Ацэньваючы прыведзеныя структурныя зьмены, неабходна заўважыць, што яны мелі далёка не фармальнае значэньне. Тое, што вучні школаў з прадметам беларускай мовы пачыналі яе вывучаць не ад першай, а ад другой клясы, уплывала хіба толькі на статы-

**Табліца 2.** Навучаньне беларускай мовы ў пачатковых школах

| Школьны год | Агулам | | у тым ліку зь беларускай мовай навучаньня | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | беларускай | | польскай | |
| | школаў | вучняў | школаў | вучняў | школаў | вучняў[a] |
| 1954/55 | 156 | 9128 | 66 | 4642 | 90 | 4486 |
| 1955/56 | 165 | 10089 | 59 | 4031 | 106 | 6052 |
| 1960/61 | 175 | 10628 | 39 | 2643 | 136 | 7985 |
| 1962/63 | 172 | 10831 | 35 | 2507 | 137 | 8324 |
| 1965/66 | 170 | 10905 | 33 | 2287 | 139 | 8618 |
| 1969/70 | 164 | 11306 | 22 | 1368 | 142 | 9938 |
| 1970/71 | 163 | 10710 | 18 | 933 | 145 | 9777 |

*Крыніца:* Апрацоўка аўтара на падставе дадзеных Беластоцкай куратарыі.

[a] якія вывучалі беларускую мову

стычныя паказчыкі. Менш карыснай зьявай у выхаваўчым аспэкце была іншая сетка лекцыйных гадзін, згодна зь якой у “прадметных” школах прысьвячалася менш часу на навуку беларускай мовы.

Аднак найбольш істотным быў сам рэглямэнт карыстаньня з навукі роднай мовы, які ў гэтых школах быў больш элястычны. Праўда, да 1963 г. і ў гэтых школах прымяняўся прынцып абавязковасьці навучаньня роднай мовы для вучняў беларускай нацыянальнасьці, аднак яго інтэрпрэтацыя не была такой адназначнай, як у школах зь беларускай мовай навучаньня.

Два новыя, выключнай важнасьці, элемэнты ў пастаноўку гэтага пытаньня ўвяло распараджэньне міністэрства асьветы ад 17 лістапада 1962 г., якое:

па–першае — упершыню акрэсьліла беларускую мову ў школах з польскай мовай навучаньня як дадатковы, неабавязковы прадмет;

па–другое — прадугледжвала магчымасьць у індывідуальных абгрунтаваных выпадках звальняць вучняў гэтых школаў з заняткаў беларускай мовы.

Гэтыя правілы значна пагоршылі становішча прадмету беларускай мовы ў школах з польскай мовай навучаньня, аднак аж да канца 60–х гадоў у гэтай галіне не наступілі адчувальныя зьмены. Гэта было рэзультатам спрыяльнага стаўленьня беластоцкіх ваяводзкіх уладаў, узьдзеяньня БГКТ і прывязанасьці бацькоў і моладзі, для якіх масавае навучаньне ў роднай мове стала ўжо традыцыяй.

Дваццацігадовы пэрыяд, які пачаўся ў 1949 г. і працягнуўся да пачатку вялікай школьнай рэформы ў Польшчы, быў найбольш пасьпяховым і плённым у пасьляваеннай гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Няспынна працавалі агульнаадукацыйныя ліцэі ў Бельску, Гайнаўцы і Міхалове, якія за гэты пэрыяд дабіліся сур’ёзных і якасных рэзультатаў і выпусьцілі каля 1700 абсальвэнтаў.

## На этапе школьнай рэформы (1970—1976 г.)

### а) Якасныя дасягненьні і патрабаваньні

Адным з найважнейшых пытаньняў, якое на працягу многіх гадоў не зьнімалася з парадку дня, было імкненьне забясьпечыць школы кваліфікаванымі пэдагагічнымі кадрамі. І ў гэтай галіне быў дасягнуты вялікі прагрэс. Так, на працягу сваёй дваццацігадовай дзейнасьці (1949/50—1969/70 г.) Бельскі пэдагагічны ліцэй даў у 16 выпусках 427 настаўнікаў. Значная іх частка павышала свае кваліфікацыі на аддзяленьні беларускай мовы і літаратуры Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, якая дзейнічала ў пэрыяд 1956—1965 г. і якую закончыў 91 абсальвэнт. Паводле дадзеных Беластоцкай куратарыі, у выніку дзейнасьці гэтых пэдагагічных установаў, ужо ў 1965/66 г. толькі 2% усіх настаўнікаў, якія працавалі ў беларускім пачатковым школьніцтве, ня мелі кваліфікацыі.

Здавальняючае становішча ў гэтай галіне ўжо даўно наглядаецца і ў ліцэях, у якіх навучаньнем беларускай мовы і літаратуры займаліся і займаюцца высокай клясы спэцыялісты — выпускнікі філялягічных факультэтаў Варшаўскага і Менскага ўнівэрсытэтаў. Такім чынам кадравае пытаньне, якое ў мінулым сур’ёзна стрымлівала разьвіцьцё школьніцтва, у апошнія гады практычна нармалізавалася, а кваліфікацыйны ўзровень ведаў настаўнікаў беларускай мовы сёньня па сутнасьці нічым не адрозьніваецца ад настаўнікаў іншых школьных прадметаў.

Вышэй сказанае не абазначае, што гэты працэс ужо закончаны. Узрастаючыя пэдагагічныя патрабаваньні прадугледжваюць, што ў недалёкай пэрспэктыве ўсе настаўнікі павінны мець закончаную вышэйшую адукацыю. Падрыхтоўкай такіх высокакваліфі-

каваных спэцыялістаў у галіне беларускай мовы і літаратуры займаецца ад 1956 году Варшаўскі ўнівэрсытэт, які да гэтага часу выпусьціў звыш 60 магістраў беларускай філялёгіі. Ад 1972 году працуе таксама ўнівэрсытэцкае завочнае аддзяленьне беларускай філялёгіі, якое ўжо праз год дасьць першых абсальвэнтаў.

Пастаянны прагрэс наглядаецца таксама ў галіне падрыхтоўкі школьных падручнікаў па беларускай мове, якія апрацоўваюцца вопытнымі спэцыялістамі–пэдагогамі і штораз больш адпавядаюць патрабаваньням сучаснай школы. У стварэньні гэтых важных сродкаў навучаньня пастаяннае зацікаўленьне і клопаты праяўляла Беластоцкая школьная куратория і іншыя асьветныя ўлады.

### б) Новыя праблемы

Адначасова з гэтымі прагрэсіўнымі зьявамі ўва ўмовах ажыцьцяўленьня агульнапольскай школьнай рэформы ўзьніклі новыя праблемы, зь якіх трывожнай ёсьць колькаснае і тэрытарыяльнае зьмяншэньне абсягу вывучэньня беларускае мовы ў пачатковых школах.

Калі на працягу шматгадовага пэрыяду 1955—1970 г. колькасьць вучняў, якія вывучалі гэты прадмет, стабілізавалася на ўзроўні 10—11 тыс. у год, то ў наступныя гады яна раптоўна зьнізілася і ў бягучым 1975/76 школьным годзе складае ўсяго 4,5 тысяч.

Гэтае становішча толькі часткова зьвязана зь цяперашнімі дэмаграфічнымі працэсамі. Як паказваюць падлікі, на тэрыторыі гмін, у якіх ажыцьцяўляецца навучаньне беларускай мовы, цяпер яе вывучае каля 36% усіх вучняў пачатковых школаў, тады як на працягу пятнаццацігодзьдзя 1955—1970 паказчык гэты перавышаў 70%. Значнае зьмяншэньне наглядаецца нават у Арлянскай, Бельскай, Гайнаўскай, Дубіцкай, Храбалаўскай, Чыжаўскай і іншых гмінах, дзе раней родную мову вывучала звыш 90% школьнай моладзі. У Бабіцкай, Міхайлоўскай, Чаромхаўскай, Шудзялаўскай і Шымкаўскай гмінах навучаньне беларускай мовы ўвогуле спынілася.

Летам 1975 году Галоўнае праўленьне БГКТ ажыцьцявіла некаторыя мерапрыемствы, мэтай якіх было дасьледаваньне прычын гэтых працэсаў. Справа навучаньня беларускай мовы разглядалася на пасяджэньнях пленуму і прэзыдыюму ГП, камісіі асьветы БГКТ, а таксама шляхам публічнай дыскусіі ў “Ніве”. У выніку былі атрыманы шматбаковыя ацэнкі і погляды насельніцтва, настаўнікаў, грамадзкіх дзяячоў і публіцыстаў. Яны далі ня толькі надзвычай багаты аўтэнтычны матэрыял для аналізу, але таксама паказалі на жывое зацікаўленьне шырокай грамадзкасьці гэтым важным пытаньнем[18].

Няма сумневу, аб чым пераканаўча сьведчыць уся дыскусія ў “Ніве”, што лёс беларускай мовы ў школах залежыць ад становішча абодвух найбольш зацікаўленых і кампэтэнтных бакоў — г.зн. асьветных уладаў і бацькоў. Разглядаць справу асобна і шукаць вінаватых толькі на адным баку, не прымаючы пад увагу дыялектычнай сувязі, якая існуе паміж дзеяньнем ці нядзеяньнем школьных уладаў або бацькоў — мэтад бесперспэктыўны і дадатных вынікаў даць ня можа.

Зьмяншэньне абсягу навучаньня ў беларускай мове на працягу апошняй пяцігодкі можна разглядаць фармальна — пры актуальнай пастаноўцы пытаньня добраахвотнасьці — як вынік незацікаўленасьці бацькоў. Пры гэтым аднак узьнікае пытаньне, чаму менавіта цяпер гэтая зацікаўленасьць пачала памяншацца тэмпамі нечуванымі ў цэлай пасьляваеннай гісторыі, цяпер — калі нарэшце стварыліся і традыцыя, і здавальняючыя ўмовы: кадры і падручнікі.

Гэты амаль парадокс у вялікай меры паясьняюць абавязваючыя ад 22 лютага 1971 г. новыя правілы міністэрства асьветы і выхаваньня, якія зьмянілі існаваўшы да гэтага

[18] Дыскусія пад загалоўкам “Чаму дзіця ня вучыцца роднай мове” працягвалася на старонках “Нівы” тры месяцы — ад 8 чэрвеня да 7 верасьня 1975 г. — гл. адпаведныя нумары “Нівы”.

часу рэглямэнт карыстаньня з школьнай навукі беларускай мовы і стварылі вучням магчымасьць спыняць яе вучобу ў любой наступнай клясе.

Такая пастаноўка пытаньня магла абумовіць зьмяншэньне абсягу навучаньня ў любы час, аднак цяпер дзеяньне спамянутых прадпісаньняў аказалася шмат большым, паколькі яны ажыцьцяўляліся адначасна з правядзеньнем школьнай рэформы на Беласточчыне, у выніку якой значна скарацілася сетка школаў. Так, з 163 пачатковых школаў, у якіх у 1970/71 годзе вывучалася беларуская мова, за мінулае пяцігодзьдзе ліквідавана ў выніку ўзбуйненьня 75 малалікіх пачатковых школаў[19].

Рэарганізацыя школьнай сеткі мела значны ўплыў на абсяг навучаньня ў беларускай мове, пры чым можна выдзяліць тры наступныя аспэкты:

па–першае — у значнай частцы вучняў прадоўжылася дарога ў школу, у сувязі з чым паменшыўся балянс часу вучня, што пры ўказаньнях міністэрства асьветы і выхаваньня прызначаць на ўрокі беларускай мовы першую або апошнюю лекцыйную гадзіну паўплывала на жаданьне самога вучня вызваліцца ад яе вывучэньня. Адсюль узьнікалі просьбы і націскі моладзі на бацькоў;

па–другое — рэарганізацыя зьмяніла традыцыйную структуру школьніцтва на вёсцы і паўплывала на аслабленьне ранейшых асабістых кантактаў настаўніка з бацькамі.

**Табліца 3.** Колькасьць вучняў пачатковых школаў, якія вывучалі беларускую мову

| | **1970/71** | **1973/74** | **1974/75** | **1975/76** |
|---|---|---|---|---|
| **Агулам** | 10710 | 5993 | 5314 | 4460 |
| у тым ліку ў: | | | | |
| Бельску і Гайнаўцы | 526 | 513 | 564 | 535 |
| **Гмінах** | 10184 | 5480 | 4750 | 3925 |
| Арлянскай | 742 | 418 | 416 | 420 |
| Белавескай | 5 | 14 | 15 | 14 |
| Бельскай | 984 | 552 | 486 | 322 |
| Боцькаўскай | 335 | 75 | 68 | 23 |
| Гайнаўскай | 847 | 627 | 620 | 602 |
| Гарадоцкай | 719 | 248 | 165 | 105 |
| Дубіцкай | 617 | 423 | 341 | 244 |
| Заблудаўскай | 281 | 179 | 149 | 133 |
| Кляшчэльскай | 471 | 217 | 126 | 121 |
| Мілейчыцкай | 308 | 73 | 30 | 16 |
| Міхайлоўскай | 226 | 81 | 65 | – |
| Нараўкаўскай | 842 | 491 | 459 | 419 |
| Нараўскай | 1040 | 648 | 593 | 424 |
| Нурэцкай | 339 | 211 | 183 | 111 |
| Храбалаўскай | 365 | 273 | 292 | 254 |
| Чаромхаўскай | 436 | 23 | – | – |
| Чыжаўскай | 851 | 647 | 596 | 623 |
| Шымкаўскай | 236 | 20 | – | – |
| Іншых | 540 | 260 | 146 | 89 |

*Крыніца:* Апрацоўка аўтара на падставе дадзеных Беластоцкай куратарыі.

[19] Акрамя таго, за пяцігодзьдзе 1970/71—1975/76 было спынена навучаньне ў беларускай мове ў 26 наступных пачатковых школах, якія працягвалі сваю дзейнасьць (не былі ліквідаваны ў рамках школьнай рэформы): Астровак, Баброўнікі, Войшкі, Валілы–вёска, Валілы–станцыя, Вейкі, Востраў Паўночны, Гураны, Іванкі, Клюкавічы, Кнышэвічы, Круглы Лясок, Кухмы, Крушыняны, Мастаўляны, Мілейчыцы, Мялешкі, Новая Воля, Нурэц, Падазяраны, Палічная, Пянькі, Сухінічы, Чаромха–станцыя, Шымкі, Юшковы Груд. Адначасна (у 1975/76 г.) пачалося навучаньне беларускай мовы ў новаадкрытай гміннай зборнай школе ў Бельску.

Гэты факт наглядаўся як у тых мясцовасьцях, дзе школы былі ліквідаваны, так і ў новых узбуйненых школах, раёны якіх значна павялічыліся. Гэтая акалічнасьць уплывала на становішча бацькоў у яшчэ большай меры;

па–трэцяе — у часе правядзеньня рэформы ўзьнікалі значныя арганізацыйныя, кадравыя, транспартныя і іншыя праблемы, на фоне якіх кураторыя, былыя павятовыя інспэктары і дырэктары школаў у многіх выпадках зьвярталі на неабавязковы прадмет беларускай мовы найменшую ўвагу, а нярэдка зусім яго ігнаравалі. Гэта знайшло выражэньне ў выпадках яўнага парушэньня самімі органамі мясцовай адміністрацыі прынцыпу добраахвотнасьці, калі вучні ліквідаваных школаў пазбаўляліся магчымасьці працягваць вывучэньне роднай мовы ў гмінных ці іншых вышэй арганізаваных школах або калі на месца выбылага з школы настаўніка гэтага прадмету не прымаўся новы. Ува ўпамянутых выпадках, якія прыводзіліся ў рамках ніваўскай дыскусіі, вучні мелі набходную згоду бацькоў на карыстаньне з навукі беларускай мовы, а школьныя ўлады — абавязак яе запэўніць[20]. Падобных прыкладаў можна прывесьці больш. Яны датычаць плянаваньня заняткаў, зарплаты настаўнікаў і іншых.

Лягічна, што ў такіх умовах у апошнія гады стварыўся спэцыфічны клімат безадказнасьці вакол навучаньня беларускай мовы, якое па сутнасьці пушчана на самацёк. Пры гэтым Беластоцкая кураторыя, спасылаючыся на дэцэнтралістычныя працэсы, не цікавілася канкрэтнымі пытаньнямі ў паасобных школах і на ўсе бягучыя цяжкасьці мела адзін стандартны адказ: “Такая вось воля бацькоў”.

Вышэй сказанае паясьняе, што зацікаўленасьць бацькоў навучаньнем беларускай мовы ня ёсьць паняцьцем адназначным: у пэўнай іх часткі яна аўтэнтычная, аднак у значнай меры фармуецца пад уплывам спамянутых фактараў і ўмоў, якія ствараюцца школьнымі ўладамі і ад бацькоў не залежаць. Ігнараваньне гэтых узаемасувязяў паглыбляе атмасфэру безадказнасьці за лёс навучаньня роднай мовы і стварае балаган, ува ўмовах якога зьмяншэньне абсягу яе навучаньня ёсьць толькі лягічным наступствам[21].

## БГКТ і школы

Характарыстыка пасьляваеннага разьвіцьця беларускага школьніцтва была б няпоўнай без падкрэсьленьня значэньня вывучэньня роднай мовы. За гэты час тысячы нашых юнакоў і дзяўчат штогод вывучалі беларускую мову і літаратуру, знаёміліся зь мінуласьцю і сучасным жыцьцём беларускага народу. Гэты факт сыграў істотную ролю ў разьвіцьці сьвядомасьці і культуры насельніцтва, пашырэньні чытальніцтва, мастацкай самадзейнасьці і літаратурнага руху на Беласточчыне.

За мінулыя два дзесяцігодзьдзі сваёй дзейнасьці БГКТ праявіла шмат ініцыятываў і правяла шматлікія мерапрыемствы, накіраваныя на разьвіцьцё і кшталтаваньне працэсу вывучэньня беларускай мовы ў школах. Асабліва важным участкам зацікаўленасьці таварыства былі і ёсьць кадравыя пытаньні, у прыватнасьці — узровень кваліфікацыі настаўнікаў. Варта ўспомніць пасьпяховыя ініцыятывы і супрацоўніцтва БГКТ у арганізацыі катэдры беларускай філялёгіі пры Варшаўскім унівэрсытэце і яе завочнага аддзяленьня, захады ў справе адкрыцьця аддзяленьня беларускай мовы і літаратуры бы-

---

[20] Швед Віктар. Школьная рэформа і навучаньне беларускай мовы // Ніва. 1975. 20 ліпеня.

[21] 6 мая 1976 г. у Беластоцкай кураторыі адбылася нарада дырэктараў гмінных школаў, у якіх вывучаецца ці вывучалася беларуская мова. На нарадзе прадстаўнікі школьнай адміністрацыі выказвалі сваё стаўленьне да некаторых пытаньняў, закранутых у гэтым дакладзе. Гл. рэпартаж Яніны Чарнякевіч “Беларуская мова ” // Ніва. 1976. 30 мая. Гл. таксама па гэтым пытаньні выступленьне візытатара міністэрства асьветы і выхаваньня на VIII зьезьдзе БГКТ, надрукаванае пад загалоўкам “Добраахвотнасць не азначае абыякавасці” // Ніва. 1976. 8 жніўня.

лой Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, арганізацыі летніх настаўніцкіх курсаў у Менску і іншых.

На працягу мінулых гадоў БГКТ арганізавала шэраг сустрэч з настаўнікамі, а з другога боку — прадстаўнікі таварыства ўдзельнічалі ў настаўніцкіх канфэрэнцыях. Супрацоўніцтва з настаўнікамі знаходзіць выражэньне і ў тым, што значная іх частка ёсьць актывістамі БГКТ.

За мінулае дваццацігодзьдзе БГКТ перадало школьным бібліятэкам тысячы экзэмпляраў мастацкай літаратуры, арганізавала шматлікія сустрэчы пісьменьнікаў з школьнай моладзьдзю, садзейнічала ў арганізацыі разнастайных конкурсаў і іншых мерапрыемстваў. Справе навучаньня ў роднай мове пасрэдна ці беспасярэдне служыла ўся дваццацігадовая дзейнасьць Беларускага таварыства.

## Бібліяграфія

Важнейшыя крыніцы і распрацоўкі, прысьвечаныя ў цэласьці або часткова пытаньням гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне.

### а) на беларускай мове

Баравік Кірыл. Начаткі // Ніва. 1964. 15 лістапада.

Верас І. Першы з’езд беларускіх настаўнікаў // Ніва. 1957. 19 мая.

Гайдук Мікалай. Родная школа // Беларускі каляндар на 1969 год. Беласток: БГКТ, 1968.

Паўлючук Уладзімір. Мой родны кут // Ніва. 1962. 9 сьнежня.

Паўлючук Уладзімір. У кругу выхаваўчых спраў // Беларускі каляндар на 1964 год. Беласток: БГКТ, 1964.

Сакоўскі Васіль. Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы // Беларускі каляндар на 1969 год. Беласток: БГКТ, 1968.

Станкевіч Уладзімір. Развіццё беларускай асветы ў Польшчы // Ніва. 1965. 11 сакавіка.

Туронак Юры. Школьніцтва для нацыянальных меншасцяў у Польшчы // Ніва. 1970. 15 сакавіка.

Туронак Юры. Памяці Аляксандра Валкавыцкага // Ніва. 1970. 12 красавіка.

Туронак Юры. Бельская кузня настаўніцкіх кадраў // Ніва. 1970. 28 чэрвеня.

Туронак Юры. Нарыс развіцця школьніцтва на Беласточчыне ў 1778—1939 г. // Навуковы зборнік. Беласток: БНТ і БГКТ, 1974.

Філіпік Люба, Юзвюк Уладзімір. Пяць год дзейнасці БГКТ — Дасягненні ў галіне асветы // Беларускі каляндар на 1962 год. Беласток: БГКТ, 1962.

Чаму дзіця не вучыцца роднай мове (выступленні ў дыскусіі) // Ніва. 1975. 8 чэрвеня — 7 верасня.

Чарнякевіч Я. Беларуская мова // Ніва. 1976. 30 мая.

Юзвюк Уладзімір. І што далей // Ніва. 1962. 4 лістапада.

Яновіч Сакрат. Размова ў чатыры вочы // Ніва. 1962. 2 сьнежня.

### б) на польскай мове

Januszek Franciszek. Jawne i tajne szkoły polskie w województwie białostockim w latach II wojny światowej. Białystok: wyd. Filii Uniwersytetu Warszawskiego, 1975.

Kolendo Maria. Szkolnictwo polskie w powiecie Bielsk Podlaski w okresie okupacji (1941—1944) // Przegląd Historyczno–Oświatowy. Rok XV, 1972. № 2(56).

Kryński Edward. Szkolnictwo // Rozdział w informatorze “Białoruskie Towarzystwo Społeczno–Kulturalne”. Białystok: BTSK, 1972.

Lovell Jerzy. Polska, jakiej nie znamy. Kraków: Wyd. Literackie, 1970.

Maciąg Włodzimierz. Sprawy biało-

ruskiego pogranicza // Życie Literackie. 29.7.1956. № 31(236).

Mauersberg Stanisław. Szkoły jakich nie znamy // Życie Literackie. 8.9.1968. № 36(867).

Mauersberg Stanisław. Zasada: równy start // Biełaruski Kalandar na 1966 hod. Białystok: BTSK, 1966 (przedruk z "Trybuny Ludu" z 6.9.1959).

Pieczkowski Stanisław. W pierwszym roku po wyzwoleniu // Nowa Szkoła. 1971. № 10.

Rawicz Jerzy. Białorusini w Polsce — Nowym torem // Trybuna Ludu. 9.9.1955 (wyd. A).

Rocznik Statystyczny GUS, lata 1955—1970. Warszawa.

Rocznik Statystyczny Szkolnictwa GUS, lata 1959/60—1971/72. Warszawa.

Turonek Jerzy. Okupacyjna polityka szkolna w Okręgu Białostockim (1941—1944) // Przegląd Historyczno–Oświatowy. Rok XIX, 1976. № 3(73).

Wasiak Kazimierz. Szkolnictwo i kultura grup narodowościowych // Przegląd Zachodniopomorski. Rok XVI, 1972. Zeszyt 4.

*Друкуецца паводле:* Туронак Юры. Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд. Беласток: выданне Ваяводскай управы, 1976.

# Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе (1941—1944)

Стаўленьне да школьніцтва для мясцовага насельніцтва ў акупаванай Польшчы і іншых краінах Эўропы было істотнай складовай часткай агульнай палітыкі трэцяга райху на гэтых тэрыторыях. У гэтым кантэксьце "асьветныя" прынцыпы гітлерызму, якія мелі на мэце выхаваньне паслухмяных, малапісьменных нявольнікаў "герэнфольку", выконвалі сур'ёзную ролю ў рэалізацыі плянаў заваяваньня і заняволеньня нацыяў. Гэтыя прынцыпы выразна сфармуляваў Г. Гімлер у дакумэнце "Колькі думак аб абыходжаньні зь іншародцамі на Ўсходзе", які пасьля ўхваленьня Гітлерам у траўні 1940 г. набыў моц дырэктывы, якая ў ліку іншага вызначала асноўныя мэты і абсяг дзейнасьці школьніцтва наступным чынам:

> Для ненямецкага насельніцтва Ўсходу ня можа быць школаў вышэйшых за чатырохклясную народную школу. Мэтай такой школы мае быць выключна: простае лічэньне сама многа да 500, напісаньне прозьвішча, навучаньне, што Божым запаветам ёсьць паслушэнства да немцаў, прыстойнасьць, пільнасьць і ветлівасьць. У тым, каб вучыць чытаць, я ня бачу неабходнасьці[1].

Аднак тарнаваньне гэтых дырэктываў на практыцы не было ані пасьлядоўным, ані аднастайным і абумоўлівалася рознымі палітычнымі і эканамічнымі разлікамі кіраўнікоў паасобных акупаваных тэрыторыяў. Гэтак, напрыклад, на тэрыторыі генэральнай губэрні існавала арганізаваная сыстэма васьмігадовых і сярэдніх прафэсійных школаў з адпаведна звужанай праграмай навучаньня[2].

Значна большыя саступкі ў гэтым абсягу рабіліся на тэрыторыі райхскамісарыяту Остлянд (які ахопліваў Літву, Латвію, Эстонію і частку Беларусі), дзе акупацыйныя ўлады дазволілі функцыянаваньне пачатковых, сярэдніх агульнаадукацыйных і прафэсійных, нават вышэйшых школаў[3].

Яшчэ іначай выглядала справа афіцыйнага школьніцтва на тэрыторыі райхскамісарыяту Ўкраіна, дзе ў выніку катэгарычна нэгатыўнай пазыцыі яго генэральнага камісара Эрыха Коха маглі існаваць адно элемэнтарныя пачатковыя чатырохклясныя школы[4].

Цалкам адрознай была адукацыйная сытуацыя ў Беластоцкай акрузе, што ў вялікай меры вынікала зь яе спэцыфічнай пазыцыі ў структуры нямецкай цывільнай адміністрацыі на акупаваных усходніх землях. Гэтак, у адрозьненьне ад дзьвюх іншых вялікіх адміністрацыйных адзінак, створаных на захопленых прасьцягах Савецкага Саюзу, а менавіта райхскамісарыятаў Остлянд і Ўкраіна, Беластоцкая акруга не была падпарадкаваная міністру ўсходніх акупаваных абшараў А. Розэнбэргу. У адрозьненьне таксама ад усходняй Галіччыны, яна не была ўлучаная ў Генэральную губэрню. Урэшце, адрозна ад сувальшчыны і паўночнай Мазовіі, Беластоцкая акруга не была ўлучаная ўва ўсходняпрускую правінцыю райху, дарма што кіраўніком яе цывільнай адміністрацыі быў прызначаны Эрых Кох — гаўляйтэр і обэр–прэзыдэнт Усходняй Прусіі.

Такім чынам, на працягу ўсяго трохгадовага пэрыяду нямецкай акупацыі (1941—

---

[1] Biuletyn Głównej Komisji Badania Zbrodni Niemieckich w Polsce. IV. 1948. S.123; а таксама: Военно–исторический журнал. 1960. № 1. С.88—89.

[2] Madajczyk C. Polityka III Rzeszy w okupowanej Polsce. T. 2. Warszawa, 1970. S.149.

[3] Dallin A. German Rule in Russia 1941—1945. A Study of Occupation Policies. London, 1957. P.459—464.

[4] Тамсама.

1944) Беластоцкая акруга складала адасобленую адміністрацыйную адзінку, якая праз асобу Э. Коха падпарадкоўвалася беспасярэдне канцлеру райху. Такі статус акругі, аднак, быў часовым рашэньнем, бо ў будучыні яе зьбіраліся ўлучыць ува Ўсходнюю Прусію. Пакуль жа адміністрацыя Коха павінна была "ачысьціць Беластоцкую акругу ад нацыянальна і расава чужых элемэнтаў і падрыхтаваць яе для нямецкай калянізацыі"[5].

Наступствам гэтага пляну было як рэалізаванае выгубленьне людзей, так і плянаванае высяляньне часткі мясцовага насельніцтва, што ў ліку іншых пацьвердзіў функцыянэр беластоцкага гестапа Вальдэмар Махол[6].

Спэцыфіка палітычнай сытуацыі тлумачыць справу толькі часткова, бо яна не выключала магчымасьці арганізацыі афіцыйнай сыстэмы школьніцтва ў Беластоцкай акрузе, прынамсі да часу яе плянаванай інкарпарацыі ў райх. Важнае значэньне з гэтага пункту гледжаньня мела асабістая пазыцыя Эрыха Коха, кіраўніка цывільнай адміністрацыі акругі, якая — як сьведчаць шматлікія дакумэнты — ішла яшчэ далей, чымся вышэйзгаданая гімлераўская дырэктыва, і нярэдка была прадметам спрэчак у кіраўнічых колах трэцяга райху. Вось жа, Кох быў зацятым праціўнікам адстойванай міністрам акупаваных усходніх земляў А. Розэнбэргам (скіраванай супраць Расеі) канцэпцыі "санітарнага кардону", які ахопліваў балтыйскія краіны, Беларусь, Украіну, і як яе вынік — імкненьня да абуджэньня мясцовага нацыяналізму, разглядаючы гэтыя абшары выключна як прадмет бесцырымоннай эканамічнай эксплюатацыі і рэзэрвуар рабочай сілы[7].

Абедзьве гэтыя канцэпцыі, натуральна, канфрантавалі таксама і ў абсягу асьветы. Калі Розэнбэрг прадугледжваў пэўныя формы дзейнасьці школьніцтва, дык Кох эфэктыўна процідзейнічаў іх рэалізацыі на кіраваных ім тэрыторыях. Праявай гэтага быў разгром польскага школьніцтва ўва Ўсходняй Прусіі, а таксама на Сувальшчыне і ў паўночнай Мазовіі і тарпэдаваньне спробаў Розэнбэрга арганізаваць на тэрыторыі райхскамісарыяту Ўкраіна сярэдняе школьніцтва і ўнівэрсытэт у Кіеве[8].

Памянёнае стаўленьне Коха да пытаньняў асьветы ненямецкага насельніцтва было наступным важным чыньнікам, які ўплываў на сытуацыю школьніцтва ў Беластоцкай акрузе, дарма што фактычна кіраваньне цывільнай адміністрацыяй гэтай акругі амаль увесь час акупацыі ажыцьцяўляў ня Кох, але ад яго імя яго намесьнік — д–р Брыкс. Шмат што гаворыць за тое, што, апроч агульнай арыентацыі свайго шэфа, Брыкс не атрымаў ад яго выразных інструкцыяў наконт разьвязаньня праблемы школьніцтва ў даручанай яму акрузе. Ня меў Брыкс і ніякіх узораў для насьледаваньня, бо з увагі на палітычна–адміністрацыйную спэцыфіку Беластоцкай акругі тут не маглі ўжывацца захады, рэалізаваныя ў генэральнай губэрні ці на тэрыторыі Остлянду, не пасаваў таксама і прэцэдэнт земляў, ужо ўлучаных ува Ўсходнюю Прусію (Сувальшчына, паўночная Мазовія).

Можна прыпусьціць, што вырашэньне школьнага пытаньня, якое на пачатку акупацыі паспрабаваў зрабіць намесьнік кіраўніка цывільнай адміністрацыі Беластоцкай акругі д–р Брыкс, было па сутнасьці ніякім. Мяркуючы з тагачаснага фактычнага стану (пра гэта ніжэй), ён ня выдаў ніякіх інструкцыяў наконт арганізацыі сыстэмы пачатковага школьніцтва, аднак ня выдаў і загадаў, якія б забаранялі дзейнасьць школаў у акрузе. Трэба падкрэсьліць, што гэта тычылася ў роўнай меры як польскага, так і беларускага школьніцтва, што ў сваю чаргу было вынікам адсутнасьці ў кіраўніцтве цывільнай адміністрацыі яўных тэндэнцыяў у абсягу нацыянальнай палітыкі. Як паведамляе падпольны рапарт аб сытуацыі за пэрыяд 15.08.—15.11.1941 г., "апроч нямецкай мовы, абедзьве мяс-

[5] Arch. Główne Komisji Badań Zbrodni Hitlerowskich (далей: AG KBZH), sygn. IV, K 311/58; Akta procesu Kocha. T.I. S.20, а таксама T.IX. S.386.

[6] Arch. Żydowskiego Instytutu Historycznego. Akta nieuporządkowane: Odpowiedź Waldemara Macholla na ankietę ŻIH "Die politischen Beziehungen in Bezirk Bialystok in den Jahren 1941—1944".

[7] Dallin. German Rule... P. 49 i 464.

[8] AG KBZH, sygn. IV, K 311/58: Akta procesu Kocha. T. X. S.750—752.

цовыя мовы (г.зн. польская і беларуская. — *Ю.Т.*) прызнаныя афіцыйнымі <...>. Усе нацыянальныя спрэчкі, зрэшты, нешматлікія на гэтай тэрыторыі, акупанты гасяць стэрэатыпнай формулай: няма Польшчы, няма Беларусі, ёсьць толькі Нямеччына"[9].

У гэтай атмасфэры акупацыйныя ўлады не дазволілі аднавіць дзейнасьць таксама і астатнім культурным установам. Не дазволена было таксама выдаваць прэсу на польскай мове, а газэту "Беларускі Голас", якая пачала выходзіць у верасьні 1941 г., неўзабаве ліквідавалі[10].

У гэтай сытуацыі ўвосень 1941 г., г.зн. на пачатку першага школьнага году ўва ўмовах нямецкай акупацыі справа легальнага навучаньня апынулася практычна ў сфэры рашэньня павятовых камісараў. З прычыны адсутнасьці інструкцыяў Цывільнай Адміністрацыі ў гэтай справе, а таксама яе нігілістычнага стаўленьня да культурных патрэбаў мясцовага насельніцтва гэтыя рашэньні не былі аднолькавыя, і ў выніку абумовілі складаную карціну легальнага школьніцтва ў Беластоцкай акрузе.

Як паказваюць зьвесткі з праведзенага ў 1946 г. апытаньня міністэрства асьветы, а таксама вынікі дасьледаваньняў Марыі Календы, бальшыня павятовых камісараў разьвязала гэтае пытаньне ў кірунку, згодным з духам нацыянал–сацыялістычнай дактрыны, забараніўшы дзейнасьць школаў на тэрыторыі Граеўскага, Гарадзенскага, Ломжынскага, Сакольскага і Ваўкавыскага паветаў[11].

Парушэньне гэтых забаронаў — як сьведчаць адказы апытаных настаўнікаў з Сакольскага павету — пагражала суворымі рэпрэсіямі, аж да сьмяротнага пакараньня. У многіх мясьцінах павету школьную моладзь выкарыстоўвалі для палявых працаў і аховы грамадзкага парадку пад наглядам пакінутых бяз працы настаўнікаў[12].

Калі ў Сакольскім і іншых названых паветах школьнае навучаньне магло адбывацца толькі ў падпольных умовах, то ў Беластоку павятовы камісар у верасьні 1941 г. не процідзейнічаў арганізацыі легальнага школьніцтва. У гэты час з ініцыятывы настаўнікаў і насельніцтва былі адчыненыя прынамсі 18 пачатковых школаў у наступных мясьцінах Беластоцкага павету (у дужках — колькасьць вучняў паводле цытаваных апытаньняў міністэрства асьветы)[13]:

*Польскія школы*: Хорашч (400), Чарна Беластоцкая (200), Дабрынева, Дабрынёўка (75), Юхновец (150), Копіск (45), Ксенжына, Міхалова (125), Невадніца (76), Новае Аляксандрова, Агароднічкі, Панікла, Супрасьля, Заблудаўе.
*Беларускія школы*: Ялоўка (28), Міхалова, Агароднічкі (70), Рыболы.

Думаецца, што гэтая інфармацыя няпоўная, а колькасьць школаў, адчыненых у верасьні 1941 г. на тэрыторыі Беластоцкага павету, насамрэч была большая. Гэтыя шко-

---

[9] Centr. Arch. KC PZPR, sygn. 202/II, t. 6. Delegatura Rządu RP an kraj: Raport sytuacyjny za okres od 15.VIII.1941 do 15.XI.1941. Ziemie Wschodnie 3, Okręg Białostocki. S.120—121.

[10] Тамсама. У пазьнейшы пэрыяд акупацыі ў Беластоку выдаваліся дзьве газэты для мясцовага насельніцтва: "Новая Дарога" (на беларускай мове) і "Nowy Kurier Białostocki" (на польскай мове).

[11] Archiwum Akt Nowych w Warszawie. Zespół Ministerstwa Oświaty (dalej: AAN, ZMO): Ankiety z 1946 r. "Szkolnictwo polskie jawne i tajne w okresie wojny i okupacji", sygn. 58—63a; Kolendo M. Szkolnictwo polskie w powiecie Bielsk Podlaski w okresie okupacji (1941–1944) // Przegląd Historyczno–Oświatowy. 1972. № 2. S. 210.

[12] AAN, ZMO: Ankiety…, sygn. 62 — інфармацыі з школаў у мясцовасьцях Дрыга, Крынкі і Высокае.

[13] Тамсама. Sygn. 59a — szkoły powiatu białostockiego (пададзеная там інфармацыя, што ў Агароднічках надалей існуе беларуская школа, не адпавядае рэчаіснасьці — гэта пацьвярджаюць успаміны яе тагачаснай настаўніцы Веры Карчэўскай, зафіксаваныя аўтарам 3.7.1967 г.); Kolendo M. Szkolnictwo polskie w powiecie Bielsk Podlaski… S. 210; а таксама інфармацыя аўтара пра школы ў Ксенжыне, Міхалове (беларускай), Рыболах і Супрасьлі.

лы, як польскія, так і беларускія, працавалі толькі да сьвята Божага нараджэньня 1941 г., пасьля чаго распараджэньнем павятовага камісара яны былі зачыненыя.

На фоне прыведзеных тут нэгатыўных тэндэнцыяў мясцовай нямецкай адміністрацыі цікавай зьявай у гісторыі акупацыйнага школьніцтва была сытуацыя ў Бельска–Падляскім павеце, найперш з гледзішча яго вялікай тэрыторыі, моўнай разнароднасьці і ўмоў дзейнасьці школаў. Гэтая праблематыка заслугоўвае дакумэнтаванага асьвятленьня, у тым ліку з увагі на паўтараныя шмат гадоў у нашай гістарычнай літаратуры цьверджаньні, што падчас нямецкай акупацыі легальных школаў у Беластоцкай акрузе не існавала ўвогуле[14].

Генэза ўзьнікненьня легальных пачатковых школаў у Бельска–Падляскім павеце пры такіх абставінах — пытаньне першараднага значэньня. У сьвятле пададзеных вышэй падлікаў яна не магла быць функцыяй палітыкі апарату акупацыйнай адміністрацыі ані ў вялікім маштабе, ані тым болей у маштабе Беластоцкай акругі. Яна была выключна вынікам самастойнага трактаваньня гэтага пытаньня павятовага камісара ў Бельску Падляскім, якім увесь трохгадовы пэрыяд акупацыі быў усходняпрускі ляндрат Тубэнталь.

Істотнае тлумачэньне працэсу арганізацыі школаў у Бельска–Падляскім павеце даў Яраслаў Кастыцэвіч, які некалькі месяцаў да часу стварэньня гмін (амтскамісарыятаў) выконваў функцыю войта гміны ў Бельску Падляскім і дзеля гэтага кантактаваў з павятовым камісарам. Паводле паведамленьня Я. Кастыцэвіча[15], у верасьні 1941 г. у адказ на захады бацькоў, настаўнікаў гміны і яго самога як яе войта павятовы камісар у Бельску Падляскім даў згоду на адкрыцьцё школаў. Пры гэтым ён быццам патлумачыў, што ў сваім рашэньні ён не абмежаваны распараджэньнямі цывільнай адміністрацыі акругі, якія не прадугледжвалі арганізацыі школаў, але й не забаранялі іх дзейнасьці. Рашэньне павятовага камісара адначасна вызначала ўмовы дзейнасьці школьніцтва. Гэтыя мелі быць школы найніжэйшага ўзроўню навучаньня (дзьвюхклясныя), а нагляд за імі быў давераны гміне.

Цяжка прыпусьціць, што гэтае рашэньне азначала якуюсьці асаблівую саступку насельніцтву павету і значна адыходзіла ад агульных прынцыпаў гітлераўскай палітыкі ў гэтым пытаньні. Яно стварала выключна малыя магчымасьці адукацыі дзяцей у рамках легальнага школьніцтва, значна меншыя, чымся на суседніх акупаваных усходніх землях (генэральная губэрня, Остлянд і Ўкраіна). Павятовы камісар мог у любы момант адклікаць сваю згоду, бо яна не была падмацаваная распараджэньнямі ўладаў акругі.

Таксама малаімаверна, каб гэтае рашэньне было праявай усьведамленьня павятовым камісарам элемэнтарных адукацыйных патрэбаў мясцовага насельніцтва, пра што, сярод іншага, сьведчыць вялікая заўзятасьць, якую Тубэнталь выявіў пры ліквідацыі польскага школьніцтва на Сувальшчыне падчас выкананьня ім функцыі ляндрата ў гэтым павеце (1939—1941). Таму, праўдападобна, на дазвол павятовага камісара паўплывалі як імкненьне наладзіць стасункі зь мясцовым насельніцтвам на новай, цяжкай тэрыторыі, так і ацэнка таго факту, што легальнае функцыянаваньне школаў стварала акупацыйным уладам магчымасьць вельмі эфэктыўнага ўліку і кантролю над інтэліген-

[14] Гэтыя меркаваньні адстойвалі нават такія знаўцы акупацыйнай гісторыі Беласточчыны, як Шыман Датнэр (гл.: Biuletyn Głównej Komisji Badania Zbrodni Hitlerowskich w Polsce. XV. 1965. S. 8) і Міхал Гнатоўскі (гл.: Studia i materiały do dziejów miasta Białegostoku. Białystok, 1970. S. 23). Упершыню на гэтае пытаньне зьвярнула ўвагу Марыя Календа (гл.: Przegląd Historyczno–Oświatowy. 1972. № 2), дакумэнтуючы, аднак, дзейнасьць толькі 25—30% школаў, якія існавалі ў той час у Бельска–Падляскім павеце. Аднак засяроджаньне ўвагі галоўным чынам на польскім школьніцтве не дазволіла аўтарцы сфармуляваць правільную ацэнку генэзы ўсяго мясцовага школьніцтва і прывяло да зьяўленьня вялікіх “белых плямаў” у сетцы школаў ува ўсходняй частцы павету.

[15] Інфармацыя Яраслава Кастыцэвіча зь Бельску Падляскага, 7.06.1968 г.

цыяй (настаўнікамі) Бельска–Падляскага павету.

Пытаньне выкарыстаньня згоды павятовага камісара на адкрыцьцё школаў у Бельскай гміне на тэрыторыі ўсяго павету дагэтуль не дасьледаванае на дастатковым узроўні. Цьверджаньне Марыі Календы, што школы адкрываліся самавольна, без дазволу ўладаў[16], гучыць непераканаўча, бо без такой згоды ніякія адбытыя факты не маглі быць падставай для прызначэньня настаўнікаў на пасады і выплаты заробкаў зь бюджэту гмін (амтскамісарыятаў). Паводле зацытаваных успамінаў Яраслава Кастыцэвіча, то бок кампэтэнтнай асобы, ён як войт гміны не атрымліваў пісьмовага распараджэньня з павятовага камісарыяту, якое б упаўнаважвала яго на адкрыцьцё школаў. Яму таксама не былі вядомыя факты высыланьня такіх распараджэньняў войтам іншых гмін. Аднак гэтае рашэньне было вядомае ўва ўсіх гмінах павету, з чаго мусіла б вынікаць, што яно было паведамленае падчас інструктажу войтаў у канцы жніўня 1941 г. Гэта пацьвярджаюць выказваньні апытаных настаўнікаў: Ванды Клос (Галёнкі) і Антона Піруга (Рудка), што "ў жніўні 1941 г. акупацыйныя ўлады (ляндрат) дазволілі адчыніць дзьве клясы пачатковай школы"[17].

Беручы пад увагу задакумэнтаваныя падлікі, пададзеныя ў табліцы 1, з пачаткам 1941/42 школьнага году (вызначальным у пытаньні ацэнкі генэзы школьніцтва) у Бельска–Падляскім павеце распачалі працу 122 арганізаваныя "зьнізу" пачатковыя школы, у тым ліку з польскай мовай навучаньня — 61, зь беларускай — 58 (улучна з школамі ў Нурцы і Макарках, дзе вучылі па–расейску) і 3 дзьвюхмоўныя (Чорная Вялікая, Ягаднікі і Мутная). Агулам гэта складала больш як 60% пачатковых школаў, якія існавалі ў 1937/38 школьным годзе[18].

Пададзеную лічбу трэба разглядаць як мінімальную, зважаючы на тое, што дастатковае дакумэнтальнае пацьверджаньне існаваньня ўсіх школаў павету з зразумелых прычынаў перасягала магчымасьці аўтара[19].

Ацэньваючы генэзу легальнага школьніцтва ў Бельска–Падляскім павеце, трэба заўважыць, што яна ня мела ніякай сувязі з нацыянальнай палітыкай акупацыйнай адміністрацыі на гэтай тэрыторыі[20]. За гэта гаворыць, у прыватнасьці, дастаткова вялікая колькасьць польскіх і беларускіх школаў, адчыненых аднachасна ў 1941/42 г., а таксама аналягічныя ўмовы іх арганізацыі, фінансаваньня і да т.п. У гэты час акупацыйныя ўлады павету яшчэ не мяшаліся ў пытаньне мовы навучаньня, пакідаючы яго на вырашэньне самога насельніцтва, у тым ліку ў залежнасьці ад магчымасьці прыёму на працу адпаведнага настаўніка, даступнасьці падручнікаў і да т.п. Вось жа, у некаторых беларускіх вёсках (Ляўкі, Сасіны, Сабятын — гл. табліцу 1) былі адчыненыя школы, у якіх на аснове добраахвотнага пагадненьня насельніцтва з настаўнікамі Юліяй Віткоўскай, Марыяй Баенай і Янам Баенам навучаньне праводзілася на польскай мове. На

[16] Kolendo M. Szkolnictwo polskie w powiecie Bielsk Podlaski… S.210.

[17] WAP, Białystok, Zespół KOSB, sygn. 54: Апытаньні наконт нелегальнага навучаньня падчас нямецкай акупацыі на тэрыторыі павятовага інспэктарату Бельск Падляскі.

[18] Statystyka szkolnictwa 1937/38 r., GUS.

[19] Гэта тычыцца, у ліку іншых, школаў у Бадаках, Буякох, Глубочку, Вялікіх Сківах, Смаркліцах і Тварогах–Мазурах, у якіх, як паказана ў апытаньнях (WAP, Białystok), ажыцьцяўлялася нелегальнае навучаньне. Можна меркаваць, што ў першыя два гады акупацыі прынамсі ў частцы гэтых школаў праводзілася легальнае навучаньне ў ніжэйшых клясах. Няпэўныя і нярэдка супярэчлівыя зьвесткі былі атрыманыя аб існаваньні школаў у Барысаўшчыне, Чартаеве, Гарадзіску, Пэрлееве, Арэхавічах, Топчыве, Трывежы, Войтках і Жэрчыцах, у сувязі з чым яны не былі ўлічаныя ў табліцы 1.

[20] Гэтую думку адстойвае Марыя Календа (гл.: Szkolnictwo polskie w powiecie Bielsk Podlaski… S.211), пішучы: "Самастойная асьветная палітыка на тэрыторыі Бельска–Падляскага павету <...>, магчыма, была ў пэўнай ступені вынікам спэцыфічнай палітыкі гітлераўскіх акупантаў да беларускага насельніцтва".

гэтай самай аснове настаўнікі–палякі Ян Вайтовіч і Юзаф Пухальскі вучылі па–беларуску ў школах у Плютычах і Койлах. Вядомыя таксама выпадкі некалькіх дзьвюхмоўных школаў, арганізаваных альбо на зычэньне насельніцтва (школы ў Чорнай Вялікай — настаўнік Андрэй Маскалевіч, а таксама ў Мутнай), альбо з аб'ектыўных прычынаў. Як піша Марыя Кульчынская, працуючы ў 1941/42 г. у школе ў беларускай вёсцы Ягаднікі, яна праводзіла заняткі на польскай і беларускай мовах у залежнасьці ад падручнікаў, якія можна было знайсьці для паасобных прадметаў[21].

Згаданыя выпадкі, якія маюць істотнае значэньне для характарыстыкі разгляданага пэрыяду нямецкай акупацыі, былі выключнымі рашэньнямі і ні ў чым не парушалі агульнапрынятага ў Бельска–Падляскім павеце прынцыпу, згодна зь якім у польскіх асяродзьдзях адкрываліся школы з польскай мовай навучаньня, а ў беларускіх асяродзьдзях — зь беларускай мовай навучаньня. Пры гэтым вартае ўвагі пытаньне, што ў той час як польскія, так і беларускія школы толькі ў рэдкіх выпадках парушалі моўныя межы школьнай сеткі, сфармаванай тут у пэрыяд савецкай адміністрацыі ў 1939—1941 г.[22].

Матэрыяльная аснова дзейнасьці школаў і рэалізацыя працэсу навучаньня ў паасобных гмінах Бельска–Падляскага павету была неаднолькавай і істотна адрозьнівался ў часе. Гэтыя пытаньні разьвязваліся ў залежнасьці ад умоў ваеннай акупацыі, а таксама ад стаўленьня мясцовай адміністрацыі і становішча насельніцтва.

Забесьпячэньне школаў неабходнымі памяшканьнямі ў сельскай мясцовасьці знаходзілася ў кампэтэнцыі солтысаў, якія выдзялялі іх супольна з управай гміны (амтскамісарыятам). У многіх выпадках школы месьціліся ў сваіх былых будынках (Чаі, Чыжыкі, Даратынка, Нарва, Парцава, Турна, Верцень, Вітава, Журобічы[23]), прычым некаторыя былі часова занятыя для вайсковых мэтаў (Нарва, Вітава). У Кляшчэлях навучаньне адбывалася сьпярша ў школьным памяшканьні, а пасьля яго заняцьця войскам — у прыватным доме. Навучаньне ў зьнятых памяшканьнях адбывалася таксама ў Глінька, Галёнках, Прушанцы і іншых. У Дубінах ля Белавескай пушчы памяшканьне было занятае войскам, што прывяло да спыненьня заняткаў у школе да канца акупацыі. Адначасна на фоне зносу школьных будынкаў у некаторых мясьцінах (Асмола, Выганава і інш.) ці іх спальваньня разам з усёй вёскай (Райск, Скупава) досыць гратэскна гучыць інфармацыя пра пабудову ў 1943 г. новага школьнага будынку ў Новым Корніне. Гэтыя прыклады вылучаюцца на фоне ўсіх варыянтаў сытуацыі з памяшканьнем, якія існавалі ў той час у павеце.

Пытаньне фінансаваньня дзейнасьці школаў таксама ляжала ў кампэтэнцыі гмін (амтскамісарыятаў) і вырашалася імі вельмі адрозна. Адносна высокі заробак — 80 райхсмарак за месяц — атрымлівалі настаўнікі ў Сямяціцкай, Новабярозаўскай, Арлянскай і Боцькаўскай гмінах, што прыкладна адпавядала заробку чыноўніка ў горадзе. Гэтыя заробкі ўва ўмовах лепшай харчовай сытуацыі на вёсцы і нярэдка валоданьня ўласнай дзялянкай ці невялікай гаспадаркай у суме стваралі магчымасьці лепшага існаваньня, чым у горадзе.

[21] Паводле інфармацыі Тодара Бурылы, тагачаснага солтыса вёскі Ляўкі (28.06.1966), Марыі Баены зь Беластоку (15.06.1968), Яна Вайтовіча зь Бельску Падляскага (22.09.1966), Юзафа Пухальскага зь Бельску Падляскага (28.06.1966), Яўгена Сідэвіча з Варшавы, былога вучня школы ў Мутнай (18.07.1967), а таксама ўспамінаў Марыі Кульчынскай зь Беластоку (16.11.1966) і Андрэя Маскалевіча зь Бельску Падляскага (3.04.1975).

[22] У 1941/1942 г. навучаньне ў паасобных школах Бельска–Падляскага павету адбывалася на той мове, на якой яно праводзілася ў 1940/41 г., за выняткам школаў у Боцьках, Чарэмшы, Крупіцах, Ляўкох, Малешах, Навасёлках, Пліках, Паканеве, Сасінах, Сабятыне, Шэршэнях і Журобічах, якія ў гэтыя гады зьмянілі мову навучаньня зь беларускай ці расейскай на польскую.

[23] Прыклады сытуацыяў з памяшканьнямі падаюцца на падставе зацытаванага апытаньня мін. асьветы 1946 г.

Значна ніжэйшыя заробкі (каля 50 РМ) атрымлівалі настаўнікі ў Бельскай і Кляшчэльскай гмінах. У Бранскай гміне заробкі былі розныя і ваганіся ад 40 да 80 РМ. Крытычная сытуацыя была ў Нарваўскай гміне, дзе дзякуючы непрыхільнай пазыцыі мясцовай адміністрацыі амтскамісарыят у пэрыяд акупацыі ня ўдзельнічаў у фінансаваньні дзейнасьці школаў. Заробак іх настаўнікаў складаўся з платы, зьбіранай з бацькоў, памерам 5 РМ за вучня за месяц.

Грошы на настаўніцкія заробкі, як і на іншыя выдаткі для школаў, выдзяляліся амтскамісарыятамі на працягу рознага часу. Найраней, ужо ў сакавіку 1942 г., выплаты спыніў амтскамісарыят у Бельску Падляскім, а з заканчэньнем 1941/1942 школьнага году — амтскамісарыяты ў Вышках, Орлі і Кляшчэлях. Амтскамісарыяты ў Сямяцічах, Боцьках, Бранску і Новым Бярозаве спынілі выплаты ў другім паўгодзьдзі 1942/1943 г. альбо з заканчэньнем гэтага школьнага году.

Пры ўмовах, калі амтскамісарыяты пераставалі фінансаваць школы, выдаткі на іх утрыманьне несьлі бацькі ў выглядзе вызначаных згодна з дамоўленасьцю складак, якія плаціліся за аднаго вучня. Памер гэтых складак быў розным і вагаўся — паводле атрыманых аўтарам зьвестак — у межах 3—5 РМ штомесяц. Новая фінансавая сытуацыя ў многіх выпадках стварала горшыя за ранейшыя ўмовы, бо атрыманыя такім чынам сродкі ішлі на заробкі настаўнікам, аплату вартаўніка, забесьпячэньне ацяпленьня і г.д. У некаторых мясьцінах ужывалася таксама форма выплаты заробкаў часткова маркамі, а часткова харчовымі прадуктамі[24].

Заслугоўвае ўвагі цікавая для тагачасных абставінаў зьява свайго роду кантролю над школамі, рэалізоўванага ў некаторых гмінах. Як згадвае Марыя Пыдых, у той час настаўніца ў Малых Грыневічах, інспэктарам школаў, якія знаходзіліся на тэрыторыі Бельскай гміны, быў яе войт Яраслаў Кастыцэвіч[25].

Гэтую функцыю пасьля ягонай адстаўкі выконваў Пётар Кісецкі — настаўнік школы ў Пасынках. Інстытут школьнага інспэктара існаваў таксама ў Мілейчыцкай гміне. Інспэктарам быў, паводле некаторых зьвестак, Міхал Нарожнік. Роля інспэктараў палягала галоўным чынам у забесьпячэньні мэтадычнымі ўказаньнямі і дапамозе ў працэсе навучаньня. Іншую форму інспэктаваньня ўжываў амтскамісар у Новым Бярозаве, які, паводле ўспамінаў Катажыны Ярушэвіч, часта склікаў сходы настаўнікаў сваёй мясцовасьці, абмяркоўваючы пытаньні арганізацыі і працэсу навучаньня.

Спэцыфічнай формай кантролю былі "інспэкцыі" школаў, якія рабілі бурмістры, амтскамісары і гмінныя жандары[26]. Яны былі зьявай досыць частай і хаця б з гэтай прычыны заслугоўваюць увагі. Было б вялікім спрашчэньнем разглядаць гэтую форму кантролю выключна ў аспэкце тэрарыстычнай дзейнасьці акупацыйнай адміністрацыі ці як вынік даносаў. Мяркуючы па характэрнай паўтаральнасьці зьявы ў паасобных гмінах, можна прыпусьціць, што іх крыніцай былі загады павятовага камісара, які хацеў быць інфармаваным аб сытуацыі ў школах, якія дзейнічалі згодна з дазволам. Амтскамісары — беспасярэднія выканаўцы гэтых загадаў — рэалізавалі іх на свой розум, паслугоўваючыся ў тым ліку гміннай жандармэрыяй. Прадметам інтарэсу гэтых "пэдагогаў", падрыхтаваных да выкананьня функцыяў, ня маючых нічога супольнага з асьветай, былі, як правіла, зьмест праводжанага ўроку, праверка сшыткаў і падручнікаў.

[24] Ацэнка фінансавай сытуацыі школаў зроблена на падставе зьвестак, атрыманых у 1965—1968 г. ад Соф'і і Даната Максімчукоў з Кляшчэляў, Базыля Лашкевіча з Орлі, Міхала Шурбака з Дубяжына, Еўдакіі Нікановіч зь Беластоку (былой настаўніцы ў Макаўцы), Рамана Арціхоўскага зь Сямяцічаў, Яна Вайтовіча зь Бельску, Катажыны Ярушэвіч з Новага Бярозава і інш., а таксама зацытаванага апытаньня мін. асьветы. Зьвесткі з гмінаў Бранск і Боцькі падае М. Календа (Szkolnictwo polskie w powiecie Bielsk Podlaski...).

[25] Ліст да аўтара ад 11.10.1966 г.

[26] AAN, ZMO: Ankiety… Sygn. 60 — лісты школаў: Бельск, Даратынка, Гліньнік, Кошава і Залесьсе.

Спэцыфічная сытуацыя была таксама ў абсягу навучальных праграмаў і падручнікаў. Як згадвалася, выдадзены павятовым камісарам у жніўні 1941 г. дазвол дапускаў адкрыцьцё дзьвюхклясных школаў, то бок школаў найніжэйшага, элемэнтарнага ўзроўню навучаньня. На практыцы гэты дазвол толькі ў нешматлікіх выпадках строга выконваўся. У бальшыні школаў яго розным чынам абыходзілі ці яўна адкрывалі школы з большай колькасьцю клясаў. Гэта залежала ад стаўленьня паасобных амтскамісараў, якія ўва ўмовах адсутнасьці падрабязных адміністрацыйных прадпісаньняў маглі досыць адвольна інтэрпрэтаваць паняцьце элемэнтарнасьці навучаньня.

Як паказваюць апытаньні міністэрства асьветы, у некаторых школах назіралася зьява паступовага павышэньня колькасьці клясаў. Гэтак, напрыклад, у Бельску Падляскім і Малых Грыневічах у 1941/42 г. існавалі дзьвюхклясныя школы, а ў наступным годзе — трохклясныя. У той самы час у Гайнаўцы працавалі дзьве сяміклясныя школы (польская і беларуская), у Новабярозаўскай гміне — чатырохклясныя, а ў Мілейчыцкай гміне — пяцікласныя. Аднак у бальшыні школаў у павеце ажыцьцяўлялася легальнае чатырохкляснае навучаньне.

Трэба падкрэсьліць той факт, што працэс навучаньня ў легальным школьніцтве ў Бельска–Падляскім павеце адбываўся без афіцыйнай праграмы. У польскіх школах, як правіла, ужывалася праграма, прынятая да 1939 г., а ў беларускіх школах — савецкая школьная праграма 1939—1941 г. У абодвух выпадках яны былі мадыфікаваныя і дапасаваныя да тагачасных варункаў. Так, напрыклад, праграма пятай клясы польскай школы ў Гайнаўцы ў 1942/43 ахоплівала наступныя прадметы: этыка, рэлігія, нямецкая мова, польская мова, арытмэтыка з геамэтрыяй, прыродазнаўства, фізыка, хімія і геаграфія. Гісторыя не вывучалася.

Вялікай цяжкасьцю ў рэалізацыі гэтай абмежаванай праграмы навучаньня была адсутнасьць дастатковай колькасьці падручнікаў. Гэтая адсутнасьць была значна ўзмоцненая забаронай ужываньня савецкіх падручнікаў незалежна ад мовы выданьня. У канкрэтных варунках Бельска–Падляскага павету яна мела істотнае значэньне ня толькі для беларускіх, але таксама і для польскіх школаў, якія ў 1939—1941 г. у значнай ступені паслугоўваліся савецкімі падручнікамі, выдадзенымі на польскай мове. Жыцьцё, аднак, і ў гэтым выпадку было мацнейшае за прадпісаньні. Па пэўных ваганьнях адміністрацыйныя ўлады дапусьцілі да ўжытку ў школах польскія і савецкія падручнікі для I і II клясы, пасьля такіх прымітыўных зьменаў, як заклейваньне ці выразаньне партрэтаў дзяржаўных дзяячоў і пэўнай часткі тэкстаў. Старыя падручнікі ўжываліся таксама і ў вышэйшых клясах, аднак гэта было "нелегальнай" працэдурай і паддавала найперш настаўнікам стрэсу і небясьпекі падчас адведзін "інспэктараў" у мундзірах. Аднак гэта было адзіным выйсьцем, ужываным, як правіла, ува ўсіх школах.

Няма патрэбы даводзіць, якой цяжкай была ў той час сытуацыя ў сфэры настаўніцкіх кадраў і праца гэтых людзей нават у легальным школьніцтве. Істотнае значэньне ў разгляданай тэме мае ацэнка таго, ці колькасьць і якасьць гэтых кадраў былі дастатковыя для патрэбаў гэтых арганізаваных "зьнізу" школаў. Адказ на гэтае пытаньне, нават агульны, даць досыць складана.

На першы погляд магло б падацца, што для навучаньня ў школах на ўзроўні I—IV клясаў (а такімі была большасьць акупацыйных школаў у павеце), з улікам тагачасных пэдагагічных вымогаў, не было недахопу кандыдатаў. Імаверна, колькасьць асобаў зь мінімальнай пэдагагічнай падрыхтоўкай была немалая, пра што сьведчыць іх удзел у працы школьніцтва ў першыя паваенныя гады. Аднак ня гэта было найважнейшае.

Рэалізацыя працэсу навучаньня ў гэтых школах, часта без падручнікаў ці пры выкарыстаньні недазволеных падручнікаў, без праграмаў, мэтадычных указаньняў і школьных дапаможнікаў вымагала ад настаўнікаў вялікай вынаходлівасьці і ініцыятывы. У гэтым становішчы здавальняючых вынікаў навучаньня маглі дасягаць толькі дасьвед-

чаныя настаўнікі, а такіх у тагачаснай сытуацыі было ня надта шмат. Апроч таго, нягледзячы на легальны характар школьніцтва, яно не пераставала быць важным участкам ідэалягічнай барацьбы з гітлераўскім акупантам, што не рабіла яго месцам, дзе можна было бясьпечна перачакаць ліхую часіну. Беручы пад увагу гэтыя чыньнікі, можна рызыкнуць сьцьвердзіць, што колькасьць настаўнікаў, ахвотных да працы ў школьніцтве Бельска–Падляскага павету, не была дастатковая для тагачасных патрэбаў. Нават у найспрыяльнейшым 1941/42 г. прыкладна 1/3 школаў у павеце ня дзейнічала.

Апісаныя вышэй ненармальныя ўмовы працы з зразумелых прычынаў не маглі спрыяць стабілізацыі сфармаванай у 1941/42 г. школьнай сеткі, нягледзячы на арганізацыйныя і фінансавыя высілкі, якія рабіліся настаўнікамі і зацікаўленымі бацькамі. Важным чыньнікам, які ўскладняў стабільнасьць працы школаў, былі таксама рэпрэсіі паліцыі і дзейнасьць мясцовай акупацыйнай адміністрацыі. Таму пасьля аднагадовай працы ў 1942/43 г. перасталі існаваць, сярод іншых, школы ў Райску і Скупаве (пасьля спаленьня гэтых вёсак і зьнішчэньня ці высяленьня насельніцтва), у Выганаве (зьнішчэньне будынку школы), у Чарэмшы, Рэдутах, Шмурлах, Сямяцічах (рашэньні мясцовых уладаў), у Грабоўцы, Істоку, Ягадніках, Лялёнцы, Ляўках і Кнорыдах (адмова настаўнікаў). Гэтыя страты не кампэнсаваліся ўзьнікненьнем новых школаў, як, напрыклад, у Андрыянках, Бельску Падляскім, Дубяжыне і іншых. У выніку гэтых зьменаў агульная лічба школаў у Бельска–Падляскім павеце зьнізілася з 122 у 1941/42 г. да каля 110 у наступным школьным годзе, пры нязначным зьмяншэньні як польскіх, так і беларускіх школаў (параўн. табліцу 1).

Істотныя зьмены ў сытуацыі легальнага школьніцтва адбыліся толькі ў 1943 г., калі акупацыйныя ўлады Беластоцкай акругі пачалі палітыку дыфэрэнцыяванага стаўленьня да польскага і беларускага школьніцтва. Ацаніць матывы гэтай палітыкі, цікавай таксама і ў шырэйшым гістарычным аспэкце, нялёгка. Яна дагэтуль не знайшла адлюстраваньня ў публікацыях аб акупацыйнай гісторыі Беласточчыны. У вялікай ступені гэта зьвязана з амаль поўнай адсутнасьцю архіўнай дакумэнтацыі, у выніку чаго спроба такой ацэнкі можа быць зробленая толькі шляхам падрабязнага аналізу фактычнага матэрыялу.

Першыя прыкметы новай школьнай палітыкі выявіліся ў красавіку 1943 г. Паводле ўспамінаў Марыі Баены, тагачаснай настаўніцы ў Сасінах Мілейчыцкай гміны, у гэты час чыноўнік, які прыехаў зь Беластоку, паведаміў ёй пра заплянаваную з пачатку новага школьнага году зьмену мовы навучаньня з польскай на беларускую. Дзеля гэтага яна адмовілася ад працы ў гэтай беларускай вёсцы[27].

Гэты на першы погляд дробны і нетыповы эпізод мае цікавы падтэкст, зважаючы на тое, што гэта быў першы вядомы сыгнал, які паказваў на зьяўленьне тэндэнцыі да рэгуляваньня згары справы мовы навучаньня, якая ў першыя два гады акупацыі ў Бельска–Падляскім павеце была прадметам добраахвотнага пагадненьня насельніцтва і настаўнікаў.

Непрыхаваная атака акупацыйнай адміністрацыі на польскае школьніцтва ў гэтым павеце пачалася ў жніўні і трывала да канца верасьня 1943 г. За гэты час — як паказана ў табліцы 1 — у Бельска–Падляскім павеце былі зачыненыя амаль усе польскія школы[28].

Паводле інфармацыі, атрыманай на падставе зацытаванага апытаньня міністэрства асьветы і ўправы Беластоцкай школьнай акругі, а таксама ўспамінаў настаўнікаў, спыненьне легальнага навучаньня адбывалася на загады бурмістраў і амтскамісараў, якія перадаваліся кіраўнікам паасобных школаў. Беручы пад увагу тэрытарыяльны ахоп гэ-

[27] Інфармацыя Марыі Баены зь Беластоку ад 15.06.1968.

[28] AAN, ZMO, sygn. 60: *Апытаньні* пацьвярджаюць існаваньне ў 1943/1944 г. легальных школаў у Чаёх–Вульцы, Кальніцы і Верцені.

тай кампаніі, яе кароткі час і скаардынаваную, афіцыйную форму, ня можа быць сумневу, што яна была вынікам рашэньня, прынятага на ўзроўні ўладаў акругі. Пры гэтым трэба заўважыць, што гэтай кампаніі беспасярэдне не спадарожнічалі рэпрэсіі да настаўнікаў з прычыны іх дагэтулешняй працы ў легальным школьніцтве, што выразна паказвае, што не адукацыйная дзейнасьць школаў была прычынай рашэньня аб іх ліквідацыі.

Адначасна з рашэньнем аб закрыцьці польскага школьніцтва акупацыйныя ўлады Беластоцкай акругі дазволілі далейшае функцыянаваньне беларускіх школаў у Бельска–Падляскім павеце і іх адкрыцьцё ў іншых паветах[29]. Дзеля ажыцьцяўленьня арганізацыйнага і пэдагагічнага кантролю над гэтым школьніцтвам у Беластоку быў створаны т.зв. Галоўны школьны інспэктарат[30].

Як піша яго былы кіраўнік Аляксей Грыцук, Інспэктарат падпарадкоўваўся навастворанаму аддзелу асьветы цывільнай адміністрацыі акругі і ім жа фінансаваўся. Такім чынам, ён быў афіцыйным органам акупацыйнай школьнай адміністрацыі, што тэарэтычна ствarала немалыя магчымасьці дзеяньняў. На практыцы гэтыя магчымасьці былі вельмі абмежаваныя. Інспэктарат ня меў ані сродкаў на фінансаваньне дзейнасьці школаў, ані быў у стане забясьпечваць школы неабходнымі падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі[31].

Чыньнікам, які ў найбольшай ступені абумоўліваў магчымасьці разбудовы сеткі беларускіх школаў, была адсутнасьць дастатковай колькасьці настаўнікаў. Вялікая частка настаўнікаў, якія працавалі ў гэтых школах на Беласточчыне ў пэрыяд савецкай адміністрацыі (1939—1941), была дэлегаваная з Усходняй Беларусі і па прыходзе нямецкіх войскаў пакінула гэтую тэрыторыю. Беспасьпяховымі былі спробы далучыць да працы мясцовых настаўнікаў польскай нацыянальнасьці, якія альбо ня ведалі ў дастатковай ступені беларускай мовы, альбо ў тагачаснай палітычнай сытуацыі не згаджаліся на гэта[32].

У гэтых умовах да працы ў школьніцтве Інспэктарат прыцягваў пераважна мясцовых вясковых настаўнікаў рознага ўзроўню кваліфікацыі (мінімум 7 клясаў сярэдняй школы). Пераважная іх бальшыня мела толькі двухгадовы стаж працы ў савецкім школьніцтве ў 1939/1940—1940/1941 г. і атрыманую ў той час на раённых і абласных курсах мінімальную пэдагагічную падрыхтоўку.

Летам 1943 г. перад пачаткам новага навучальнага году Інспэктарат арганізаваў трохтыднёвыя пэдагагічныя курсы ў Беластоку. У іх удзельнічалі каля 80 настаўнікаў. Падчас заняткаў, якія праводзілі Аляксей Грыцук, Хведар Ільляшэвіч, Уладзімер Тамашчык

[29] Акупацыйныя ўлады, аднак, да 1943 г. не дазвалялі адкрыцьця школаў у іншых паветах Беластоцкай акругі (параўн.: CA PZPR, Zespół Delegatury Rządu, sygn. 202/II, T. 7. S. 5—6: Przegląd terenowy 15.03.—15.05.1943). Там дзейнічалі нелегальныя беларускамоўныя навучальныя курсы, у тым ліку ў Цялушках (настаўнік Ян Грыгарук), Адрынках (Ганна Снарская), Агароднічках (Вера Карчэўская), Падазяранах (Марыя Рэмжа), Страшаве (Мікола Лебядзінскі), Шымках (Васіль Дзун), Трасьцянцы (Андрэй Сергяюк).

[30] У цытаваным вышэй “Przeglądzie terenowym” ня згадваецца існаваньне інспэктарату да 15.05.1943. Праўдападобна, ён быў арганізаваны ў другой палове траўня ці ў чэрвені гэтага году.

[31] Ліст А. Грыцука ад 21.02.1968. Такім чынам, выказаныя ў розных публікацыях меркаваньні аб тым, што арганізатарам і апекуном гэтага школьніцтва быў Беларускі камітэт у Беластоку, памылковыя. Насамрэч, Камітэт ня меў ані паўнамоцтваў у гэтым абсягу, ані нават прыблізнага ўяўленьня ў сытуацыі школьніцтва ў Бельска–Падляскім павеце. Як піша А. Грыцук, колькасьць беларускіх школаў у гэтым павеце да 1943 г. ацэньвалася на 20, тады як насамрэч іх было амаль у тры разы больш (параўн.: табліца 1).

[32] Гэта пацьвярджае як А. Грыцук (гл. цытаваны ліст), так і інфармацыя Дэлегатуры ўраду (CA PZPR, sygn. 202/II, T.17. S.299: Opór społeczny ад 17.III.1944).

і інш., настаўнікі атрымалі інструкцыі да праграмы навучаньня ў I—IV клясах пачатковай школы, а таксама дырэктывы, як адаптаваць наяўныя падручнікі і арганізаваць працэс навучаньня ў школе[33].

У выніку арганізацыйных захадаў інспэктарату ў 1943/1944 г. былі адкрытыя 18 школаў у Беластоцкім павеце (улучна з горадам Беласток) і 8 школаў у мясьцінах Сакольскага і Ваўкавыскага паветаў, якія знаходзяцца ў сучасных межах Польшчы (гл. табліцу 2). Колькасьць беларускіх школаў у Бельска–Падляскім павеце вырасла з 54 у 1942/1943 г. усяго да 56 у 1943/1944, што адбылося ў выніку стварэньня шэрагу новых пунктаў навучаньня пры адначасным спыненьні заняткаў у некалькіх ранейшых школах (параўн.: табліца 1). Агулам на ўсёй тэрыторыі цяперашняга Беластоцкага ваяводзтва ў канцы 1943/1944 г. дзейнічала трохі больш за 80 беларускіх школаў, што складала каля 70% школаў ува ўсёй Беластоцкай акрузе[34].

Няцяжка заўважыць, што, апроч стварэньня Інспэктарату і ягоных спробаў уніфікацыі навучальнай праграмы, умовы працы беларускіх школаў у 1943/1944 г. па сутнасьці былі такія ж, як у папярэднія гады ў Бельска–Падляскім павеце. Школы надалей утрымліваліся за кошт складак зацікаўленых бацькоў, не палепшылася сытуацыя з кадрамі і памяшканьнямі і забесьпячэньнем падручнікамі, а наведваньне школаў дзецьмі надалей залежала ад добраахвотнага рашэньня бацькоў. Гэта абумоўлівала досыць сьціплую якасьць школьніцтва. Гэтак, нягледзячы на дазвол аддзелу асьветы цывільнай адміністрацыі на існаваньне сямікляснага школьніцтва, каля 90% школаў у акрузе ажыцьцяўляла толькі чатырохкляснае навучаньне. Апроч арганізаваных “зьнізу” вясковых пачатковых школаў (як правіла, з 1—2 настаўнікамі), поўныя сямігодкі дзейнічалі толькі ў Беластоку, Гайнаўцы, Белавежы і Нараўцы[35].

Сьціплыя былі таксама і колькасныя вынікі: у 1943/1944 г. сетка беларускіх школаў у маштабах акругі не перасягала нават 20% гэтых школаў пэрыяду савецкай улады[36].

Беручы пад увагу гэтыя варункі, можна сьцьвярджаць, што зроблены акупацыйнымі ўладамі акругі ўвесну 1943 г. паварот у школьнай палітыцы ні ў якой меры ня быў праяваю імкненьня да задавальненьня аб’ектыўных адукацыйных патрэбаў беларускага насельніцтва. У прыватнасьці за гэта гаворыць той факт, што аддзел асьветы цывільнай адміністрацыі не аказваў школам ніякай матэрыяльнай дапамогі і не цікавіўся працэсам і праграмай навучаньня[37].

Гэта паказвае, што матывы дыфэрэнцыяванай акупацыйнай палітыкі што да польскага і беларускага школьніцтва ляжалі ў плашчыні палітыкі. Зыходным пунктам тут быў пошук гітлераўскім апаратам бясьпекі новых мэтадаў у барацьбе з рухам супраціву, які ахопліваў усё новыя колы як польскага, так і беларускага насельніцтва. Ужываныя ў гэтай барацьбе крывавыя рэпрэсіўныя акцыі “адплаты” аказаліся малавыніковым сродкам і яшчэ больш узмацнялі нянавісьць грамадзтва да акупантаў.

Пры гэтам цяжка сабе ўявіць, каб пасьля двухгадовага досьведу на гэтай тэрыторыі

[33] Другія курсы з удзелам каля 30 настаўнікаў адбываліся ў ліпені 1944 г. у Нараўцы. Яны не былі скончаныя з прычыны ваенных дзеяньняў.

[34] Паводле інфармацыі былога школьнага інспэктара А. Грыцука (гл. зацем 31), на пачатку 1943/1944 навучальнага году ўва ўсёй Беластоцкай акрузе дзейнічала 95 беларускіх школаў, а ў канцы таго ж году — 115.

[35] Як паведамляе А. Грыцук, апроч гэтых чатырох школаў, поўныя 7–клясныя школы існавалі таксама ў Пружанах і Сьвіслачы.

[36] Паводле Марыі Турлейскай (Prawdy i fikcje. Warszawa, 1968. S. 494), у Беластоцкай вобласьці дзейнічала 470 школаў зь беларускай мовай навучаньня. У склад акупацыйнай Беластоцкай акругі ўваходзіла тэрыторыя Беластоцкай вобласьці і больш за дзясятак раёнаў Берасьцейскай і Баранавіцкай абласьцёў.

[37] Цытаваны вышэй ліст А. Грыцука (зацем 31).

беластоцкая паліцыя бясьпекі мела ілюзіі да магчымасьці заручыцца для сваіх мэтаў падтрымкай адной ці другой групай насельніцтва. Таму яна зьвярнулася да іншага сродку. Гэтым сродкам была спроба распальваньня нацыянальнага антаганізму паміж польскім і беларускім насельніцтвам, што ў выніку павінна было аслабіць эфэктыўнасьць усяго руху супраціву. У гэтым аспэкце дыфэрэнцыяцыя школьніцтва была чарговай малаарыгінальнай палітычнай правакацыяй гітлераўскага апарату бясьпекі. Як паказваюць пададзеныя зьвесткі, для аўтараў гэтай правакацыі значэньне мелі ня вынікі дзейнасьці школаў, але палітычныя вынікі, якія мелі быць наступствам створанага антаганістычнага раскладу, г.зн. існаваньня беларускіх школаў пры адначаснай забароне польскіх школаў.

Вельмі праўдападобна, што ў гэтай палітычнай гульні беластоцкую паліцыю бясьпекі прываблівала таксама магчымасьць правакаваньня канфліктаў паміж беларускім насельніцтвам і савецкай партызанкай. Справа была надзвычай істотная, бо гэтая партызанка дзейнічала галоўным чынам на тэрыторыях зь беларускім насельніцтвам пры шырокай падтрымцы і ўдзеле гэтага насельніцтва[38].

Наданьне школьніцтву ў 1943 г. бачнасьці афіцыйнага магло выклікаць у Беластоцкім абласным штабе партызанскага руху ўражаньне яго фашызацыі і ў выніку прывесьці да дзеяньняў падпольнай арміі супраць школаў і настаўнікаў.

Гэтыя правакацыйныя мэтады, не бяз выніку выпрабаваныя на іншых акупаваных тэрыторыях, у Беластоцкай акрузе цалкам праваліліся. Дарма што ў беспасярэднім адчуваньні польскага насельніцтва новая школьная палітыка была выразам фаварызацыі беларускага насельніцтва, да канца акупацыі тут не адзначалася ніякіх сур’ёзных закалотаў на глебе нацыянальнай варажнечы. Праваліліся таксама спробы правакацыі савецкага падпольля, якое, дасканала арыентуючыся ў гэтай справе, адрозьнівала намеры гітлераўскага апарату бясьпекі ад рэальнага становішча гэтых арганізаваных “зьнізу” школаў[39].

* * *

У ацэнцы вынікаў дзейнасьці легальнага школьніцтва ў Беластоцкай акрузе асаблівай увагі заслугоўваюць наступныя яго аспэкты:

1. Арганізаваныя “зьнізу” школы ў Бельска–Падляскім павеце стварэлі ўмовы для нелегальнай рэалізацыі навучальнай праграмы для вышэйшых клясаў пачатковай школы, а ў многіх выпадках — таксама і сярэдняй школы. Гэтая акалічнасьць тлумачыць прычыны значна меншага маштабу і сьціплейшых колькасных вынікаў таемнага навучаньня ў іншых паветах акругі.
2. Дзейнасьць легальнага школьніцтва ў Бельска–Падляскім павеце ўмагчымляла вучням беларускіх школаў поўную трохгадовую працягласьць навучаньня, а вучням польскіх школаў — з аднагадовым перапынкам. У суме гэта абумовіла значна лепшую сытуацыю школьніцтва ў гэтым павеце ў першыя паваенныя гады, чымся ў астатніх паветах Беластоцкага ваяводзтва.
3. Расшыранае ў 1943 г. беларускае школьніцтва працягвала сваю дзейнасьць пасьля вызваленьня пры амаль нязьменных колькасьці школаў і іх настаўніцкіх кадрах[40].

Гэта тлумачыць генэзу школьніцтва беларускай меншасьці ў варунках ПНР.

[38] Умовы і вынікі дзейнасьці савецкага падпольля падрабязна апісаныя ў працы Міхала Гнатоўскага: Za wspólną sprawę. Z dziejów partyzantki radzieckiej w Okręgu Białostockim. Lublin, 1970.

[39] Як у 1943/44 г., так і ў два папярэднія гады на Беласточчыне не адзначаліся выпадкі перашкодаў працы школаў з боку савецкага ці польскага падпольля. Гэта пацьвярджаюць выказваньні дзясятка тагачасных настаўнікаў, вучняў і работнікаў рэгіянальнай адміністрацыі.

[40] Як падае Станіслаў Пячкоўскі, у 1944/45 г. у Беластоцкім ваяводзтве дзейнічала 86 пачатковых школаў зь беларускай мовай навучаньня (гл.: W pierwszym roku po wyzwoleniu // Nowa Szkoła. 1971. № 10. S.24).

**Табліца 1.** Пачатковыя школы ў Бельска–Падляскім павеце ў пэрыяд нямецкай акупацыі[а]

Тлумачэньні:

а. Знак "+" у рубрыцы азначае: школа дзейная, але адсутнічаюць лічбавыя зьвесткі; знак "–": школа нядзейная; кропка ў рубрыцы — адсутнасьць вартых даверу зьвестак. Сьпіс школаў паводле адміністрацыйнага падзелу 1943 г. складзены на падставе мапы Беластоцкай акругі, выдадзенай у 1943 г. у Бэрліне (WAP, Białystok).

б. Кіраўнікі вясковых школаў пераважна былі іх настаўнікамі.

в. Школа да 1943/44 г. мела польскую мову навучаньня.

г. Школа з польскай і расейскай мовай навучаньня.

д. У 1941/42—1942/43 г. дзьве школы з польскай і беларускай мовай навучаньня, у 1943/44 — зь беларускай мовай навучаньня.

е. Школа з польскай і беларускай мовай навучаньня.

ё. Нумар крыніцы інфармацыі ў апошняй рубрыцы — гл.: Дадатак да Табліцы 1.

| Мясьціна | Мова навучаньня П — польск. Б — бел. Р — рас. | Колькасьць вучняў у навучальным годзе | | | Настаўнікі[б] | №[ё] крыніцы інф. (гл. дадатак) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1941/42 | 1942/43 | 1943/44 | | |
| Бельск Падляскі | П | 430 | 405 | – | Мар'ян Смэрэка і інш. | 1; 28 |
| | Б | – | + | + | Язэп Брыж і інш. | 1; 28 |
| Гайнаўка | П<br>Б | Каля<br>1000<br>210 | Каля<br>1000<br>240 | –<br>280 | Антон Бахоўскі і інш.<br>Васіль Бахар і інш. | 1; 3<br>31; 41 |
| **Амтскам. Белавежа** | | | | | | |
| Белавежа | Б | – | – | + | Федашчэня | 31; 41 |
| Старое Ляўкова | Б | – | – | 102 | Міхась Івацік | 1; 20 |
| Лука | Б | – | – | + | Мікалай Новік | 27 |
| Нараўка | Б | – | – | + | Аляксандар Валкавыцкі, Мікалай Карпюк і інш. | 1; 20 |
| Сямёнаўка | Б | – | – | 95 | Сымон Скепка | 1; 27 |
| Скупава | Б | 111 | – | – | Цімох Янюк | 1 |
| **Амтскам. Бельск** | | | | | | |
| Аўгустова | Б | + | + | + | Ефрасіньня Вышкоўская | 20 |
| Болесты | П | + | + | – | Пётар і Яўгенія Шміты | 3 |
| Дзяніскі | Б | + | + | + | Амільлян Грудзінскі | 20 |
| Дубяжын | Б | – | + | + | Павал Анапрыюк | 39 |
| Гацькі | Б | 65 | 60 | 97 | Уладзімер Прахарук (1943/44) | 1 |
| Голады | Б | + | + | + | Ян Якубовіч | 1; 28 |
| Малыя Грыневічы | П | 26 | + | – | Марыя Пыдых | 1 |
| Кноразы | Б | 48 | 48 | • | Уладзімер Прахарук | 1 |
| Кнорыды | Б | 70 | – | – | Канстанцін Кур'яновіч | 1; 20 |
| Катлы | Б | – | – | + | Міхась Матвяюк | 13 |
| Ляўкі[в] | П, Б | + | – | + | Юлія Віткоўская (1941/42) і Ян Лішык (1943/44) | 25 |
| Парцава | Б | 51 | 71 | 68 | Ільля і Натальля Федаровічы | 1; 39 |
| Пасынкі | Б | + | + | + | Пётар Кісецкі | 28 |
| Пілікі | П | 30 | – | – | Альбіна Вільгат | 1 |
| Плёскі | Б | + | + | + | Віктар Сыманюк | 26 |
| Райск | Б | + | – | – | Алена Іванкевіч | 20 |
| Завады | П | + | + | – | Уладзіслаў Каня | 2; 3 |
| Зубава | Б | – | – | + | Вольга Пракапюк | 16 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Амтскам. Боцькі** | | | | | | |
| Андрыянкі[в] | П, Б | – | 30 | 40 | | 1 |
| Боцькі | П | + | + | – | Браніслава Адамчык і інш. | 3; 12 |
| Нурэц | Р | 108 | 95 | – | Гжэгаж Гуральчук | 1; 17 |
| Альшэва | П | + | + | – | Валерыя Пяхоцкая–Лукашэвіч | 3 |
| Асмола | П | + | + | – | Сыльвэстар Трэўгут | 3 |
| Пятрова–Траяны | П | + | • | – | Валерыя Півавар | 2 |
| Сельц | П | + | • | – | Вяслава Падгайская | 2 |
| Трускі | П | + | + | – | Станіслава Зайдзінская | 3 |
| Верцень | П | 20–30 | 54 | 30 | Марыя Война, Ян Лукашэвіч | 1 |
| Выганава | П | 30 | – | – | • | 1 |
| **Амтскам. Бранск** | | | | | | |
| Бранск | П | 125 | 125 | – | Качэля | 1; 3 |
| Гліньнік | П | 40 | + | – | Соф'я Стэцэвіч | 1; 2 |
| Галёнкі | П | 38 | + | – | Ванда Клос | 1; 2 |
| Кальніца | П | 62 | 45 | 45 | Галена Лапатова | 1 |
| Керснова | П | + | + | – | Ян Сергяюк | 3 |
| Кажэва | П | 45 | 40 | – | Ванда Вольтэр | 1; 2 |
| Алексін | П | + | + | – | Ядвіга і Войцех Вайтчатак | 3 |
| Патокі | П | 34 | – | – | Францішак Богуш | 1; 2 |
| Паплавы | П | + | + | – | Ізыдора Хмялеўская | 2 |
| Прушанка | П | 37 | 34 | – | • | 1 |
| Новыя Пухалы | П | + | + | – | • | 2 |
| Рудка | П | + | + | – | Антон Піруг і інш. | 2 |
| Сьпешын | П | + | + | – | Юзаф Матысяк | 2 |
| Шмурлы | П | 40 | – | – | • | 1 |
| **Амтскам. Цехановец** | | | | | | |
| Цехановец | П | + | + | – | Сыльвэстар Кубіцкі | 1; 2 |
| Чаі–Вулька | П | 70 | 90 | 60 | Эва Коск і Яніна Метнік | 1 |
| Коцы–Басі | П | + | + | – | Ядвіга Альбэртовіч | 1; 2 |
| Малец | П | + | + | – | Эўгеніюш і Луцыя Мрачкоўскія | 2 |
| Вайтковічы | П | + | • | – | Браніслава Міховіч | 2 |
| **Амтскам. Драгічын** | | | | | | |
| Хролавічы | П | 48 | 52 | – | Апалонія Мазур | 1 |
| Драгічын | П | + | • | – | Пётар Ручай і інш. | 2; 3 |
| Клыжоўка | П | + | + | – | Соф'я Фалькоўская і Ян Яз | 2; 3 |
| Мілкавічы–Янкі | П | + | + | – | • | 29 |
| Астражаны | П | + | + | – | Станіслава Ліскавацкая | 2; 29 |
| Путкавічы | П | + | + | – | • | 29 |
| Сьлядзянаў | П | + | + | – | Юзаф Кондра | 29 |
| Смарчэва | П | + | + | – | Францішка Лазоўская | 2 |
| Сыткі | П | + | + | – | Уладзімеж Мартэвіч | 2; 3 |
| **Амтскам. Гродзіск** | | | | | | |
| Вялікая Чорная[г] | П, Р | + | + | – | Андрэй Маскалевіч | 14 |
| Макаркі | Р | + | – | – | Кавэрда | 10 |
| Малінава | П | + | + | – | • | 22 |
| Стаднікі | П | + | + | – | Марыя Бахаркішка (Bachorkówna) | 2 |
| **Амтскам. Кляшчэлі** | | | | | | |
| Чарэмха | П | 74 | – | – | Ігнат Возны | 1 |
| Дабраводы | Б | + | – | – | Данат Максімчук | 20 |
| Грабовец | Б | + | – | – | Антон Гілеўскі | 6; 30 |
| Ялёнка | Б | 38 | – | – | Павал Анапрыюк | 1; 30 |
| Кляшчэлі[д] | П, Б | 180 | 180 | 120 | Ян Явец, Марыя Трафальская | 1; 30 |
| Малочкі | Б | • | 60 | – | Надзея Вершак | 1; 40 |
| Сакі | Б | + | + | + | Савіч | 6; 30 |
| Сухавольцы | Б | + | 43 | 45 | Соф'я Максімчук, Антон Гілеўскі | 1; 30 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Тапоркі | Б | + | – | – | Людміла Максімчук | 30 |
| Вулька Выганаўская | Б | + | • | – | Карсарукава | 6; 30 |
| Жукі | Б | 28 | + | + | Мікіта Федарук | 1; 36 |
| **Амтскам. Мельнік** | | | | | | |
| Мутная[г] | А, Р | + | + | – | | 38 |
| **Амтскам. Мілейчыцы** | | | | | | |
| Мілейчыцы | Б | + | + | + | Пахвіцэвіч (?) | 23; 42 |
| Навасёлкі | П | + | + | – | • | 36 |
| Рагачы | Б | + | + | + | • | 40 |
| Паканева | П | + | + | – | Стэфанія Чупрынова | 2 |
| Сасіны[в] | П, Б | + | + | + | Марыя Баена (да красавіка 1943 г.) | 20; 40 |
| Сьнежкі | Б | + | + | + | Аляксандар Самойлік | 17; 20 |
| Сабятын | П | + | + | • | Ян Баена | 3; 23 |
| Валкі | П | + | + | – | Міхал Нарожнік | 23 |
| **Амтскам. Нарва** | | | | | | |
| Барысаўка | Б | + | + | • | Вольга Пракапюк і інш. | 16 |
| Храбастоўка | Б | + | + | + | Васіль Ціханюк | 32 |
| Даратынка | Б | 36 | 32 | 43 | Яўген Савіцкі | 1; 32 |
| Гардычына | Б | + | + | + | Базыль Васілюк | 18; 32 |
| Янава | Б | + | + | + | Ціхан Антасюк | 13; 21 |
| Клейнікі | Б | 75 | 70 | 103 | Давід Дзем’янюк і інш. | 1; 13 |
| Ласінка | Б | + | + | + | Міхал Філонік і інш. | 20 |
| Макаўка | Б | + | + | + | Еўдакія Нікановіч | 7; 20 |
| Нарва | Б | 100 | 100 | 100 | Алімпія Савіцкая | 1; 7 |
| Рэпішча | Б | • | + | + | Тамара Драбацюк | 32 |
| Ваські | Б | 40 | 40 | 40 | Кацярына Стракоўская | 1 |
| **Амтскам. Новабярозава** | | | | | | |
| Новае Бярозава | Б | + | + | + | Кацярына Ярушэвіч | 20; 34 |
| Чыжыкі | Б | 20 | 27 | 28 | • | 1; 31 |
| Дубіны | Б | • | + | – | Лідзія Антасюк | 21; 37 |
| Горная | Б | + | + | + | Яўгенія Барботка і інш. | 31; 41 |
| Койлы | Б | + | + | + | Язэп Пухальскі, Аляксандар Яканюк | 20 |
| Новы Корнін | Б | + | + | + | • | 24; 31 |
| Курашава | Б | + | + | + | Алена Панько, Ян Анішчук | 20 |
| Лянева | Б | + | + | + | Натальля Багародзкая і інш. | 20; 34 |
| Навасады | Б | – | + | – | Уладзімер Саўка | 20 |
| **Амтскам. Орля** | | | | | | |
| Чыжы | Б | 20 | 18 | 15 | Кацярына Кульчыцкая | 1; 20 |
| Істок | Б | + | – | – | Натальля Багародзкая | 20 |
| Ягаднікі[е] | П, Б | + | – | – | Марыя Кульчынская | 11; 15 |
| Стары Корнін | Б | + | + | + | • | 31; 35 |
| Крывая | Б | + | + | + | Вольга Чыстоўская | 4; 24 |
| Мора | Б | + | + | + | Уладзімер Петручук | 8; 20 |
| Орля | Б | + | + | + | Васіль Лашкевіч, Мікалай Нестаровіч | 20; 35 |
| Арэшкава | Б | + | + | – | Яўген Федарук | 5 |
| Пашкоўшчына | Б | • | + | + | Уладзімер Асташэвіч | 25; 39 |
| Рэдуты | Б | + | – | – | Раман Стасельнік | 43 |
| Сьпічкі | Б | 24 | 30 | 36 | Тадора Анапюк | 1; 20 |
| Шчыты | Б | 60 | 59 | 62 | Лявон Алясюк | 1 |
| Вітова | Б | 34 | 30 | 25 | Кірыла Баравік | 1; 20 |
| Збуч | Б | 60 | + | + | Аляксандар Беразовец | 1; 20 |
| **Амтскам. Сямяцічы** | | | | | | |
| Крупічы | П | + | + | – | • | 33 |
| Сямяцічы | П | 380 | – | – | • | 1 |
| Шэршні | П | + | + | – | • | 9 |
| Вялікая Турна | Б | 50 | 50 | 50 | Ільля Вераміевіч | 1 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Верцень | П | 65 | 52 | – | Аляксей і Марыя Рудкевічы | 1 |
| Журобічы | П | 30 | 46 | – | Раман Арціхоўскі | 1; 20 |
| **Амтскам. Вышкі** | | | | | | |
| Малешы | П | + | + | – | Антон і Галіна Бужынскія | 19 |
| Малінава | П | + | + | – | • | 3 |
| Плютычы | Б | 62 | 20 | – | Ян Вайтовіч і інш. | 1; 20 |
| Вышкі | П | + | + | – | Антаніна Залеская | 3 |
| Залесьсе | П | 37 | 32 | – | Міхал Стапяркевіч | 1 |

**Дадатак да Табліцы 1 — нумары крыніцаў**

**А. Дакумэнтальныя крыніцы:**

№ 1 — AAN, Warszawa, Zespół Min. Oświaty: Ankiety z 1946 r. „Szkolnictwo polskie jawne i tajne w okresie wojny i okupacji”, sygn. 60 (szkoły podstawowe w pow. Bielsk Podlaski), sygn. 151 (szkoły średnie ogólnokształcące — Hajnówka).

№ 2 — WAP, Białystok, Zespół KOSB, sygn. 54; Ankiety w sprawie tajnego nauczania podczas okupacji niemieckiej z terenu Inspektoratu Powiatowego Bielsk Podlaski (z 1946 r.).

№ 3 — Kolendo M. Szkolnictwo polskie w powiecie Bielsk Podlaski w okresie okupacji (1941–1944) // Przegląd Historyczno–Oświatowy. R.XV. 1972. № 2. S.209—230.

**Б. Лісты ад інфарматараў (уласныя матэрыялы аўтара):**

№ 4 — Станіслава Басевіч, Бельск Падляскі, 5.12.1946.

№ 5 — Яўген Федарук, Бельск Падляскі, 9.11.1967.

№ 6 — Антон Гілеўскі, Ліпова, пав. Гіжыцка, 14.10.1966.

№ 7 — Філіп Грынявіцкі, Ваські, 3.10.1966.

№ 8 — Школьны інспэктарат у Гайнаўцы, 31.10.1966.

№ 9 — Дырэктар школы ў Шэршанях, 6.10.1967.

№ 10 — Дырэктар школы ў Гродзіску, 6.10.1967.

№ 11 — Марыя Кульчынская, Беласток, 16.11.1966.

№ 12 — Рамуальда Лукашэвіч, Боцькі, 20.11.1966.

№ 13 — Міхась Матвяюк, Цялушкі, 26.5.1968; 17.6.1968.

№ 14 — Андрэй Маскалевіч, Бельск Падляскі, 3.4.1975.

№ 15 — Ян Анішчук, Ягоднікі, 30.10.1967.

№ 16 — Вольга Пракапюк, Бельск Падляскі, 10.10.1966.

№ 17 — Баляслаў Ступяркоўскі, Нурэц, 5.10.1967.

№ 18 — Андрэй Тапалеўскі, Клейнікі, 20.8.1966.

№ 19 — Яніна Вашчак–Гірэй, Бельск Падляскі, 16.8.1966.

**В. Вусныя ўспаміны 1966—1968 г. (уласныя матэрыялы аўтара):**

№ 20 — Успаміны тагачасных настаўнікаў, названых у табліцы 1.

№ 21 — Антасюк, маці настаўніцы з Дубін і жонка настаўніка зь Янова, Гайнаўка.

№ 22 — Раман Арціхоўскі, Сямяцічы.

№ 23 — Марыя Баена, Беласток.

№ 24 — Натальля Багародзкая, Гайнаўка.

№ 25 — Тодар Бурыла, солтыс вёскі Ляўкі ў 1941—1944 г.

№ 26 — Людміла Ермаковіч, Бельск Падляскі.

№ 27 — Мікалай Карпюк, Бельск Падляскі.

№ 28 — Яраслаў Кастьцэвіч, Бельск Падляскі.

№ 29 — Цэцылія Ліпінская, Беласток.

№ 30 — Соф’я і Данат Максімчукі, Кляшчэлі.

№ 31 — Надзея Мэльцэр–Ражкевіч, Гайнаўка.

№ 32 — Еўдакія Нікановіч, Беласток.

№ 33 — Юзаф Альшэўскі, супрацоўнік школьнага інспэктарату ў Бельску–Падляскім.

№ 34 — Юзаф Пухальскі, Бельск Падляскі.

№ 35 — Уладзімер Петручук, Гайнаўка.

№ 36 — Анатоль Рышчук, Бельск Падляскі.

№ 37 — Уладзімер Саўка, Беласток.

№ 38 — Яўген Сідэвіч, былы вучань, Варшава.

№ 39 — Міхал Шурбак, Дубяжын.

№ 40 — Аляксандар Самойлік, Плянта.

№ 41 — Тацяна Сафроненка, Гайнаўка.

№ 42 — Кс. Тэадор Такарэўскі, Бельск Падляскі.

№ 43 — Васіль Лашкевіч, Орля.

**Табліца 2.** Беларускія школы ў Беластоцкім, Сакольскім і Ваўкавыскім паветах у 1943/44 г.[а]

| Мясьціна | Настаўнікі | Колькасьць вучняў | №[е] крыніцы інфармацыі |
|---|---|---|---|
| Беласток | Уладзімер Кузьняцоў, Алена Івашкевіч і інш. | • | 1; 4; 5 |
| **Беластоцкі павет** | | | |
| Белі | • | 40 | 1 |
| Цялушкі | Ян Грыгарук | 60 | 1 |
| Грыбоўцы | Сяргей Тамашэўскі | 22 | 1; 7 |
| Малынка | Канстанцін Верабей | • | 6 |
| Міхалова | Васіль Сокал, Канстанцін Сокал, Шайноха і інш. | каля 160 | 21 |
| Новая Воля[б] | Арсень Зіневіч, Павал Палоцкі, Павал Зіневіч і інш. | 120 | 1; 21 |
| Адрынкі | Ганна Снарская | • | 3; 11 |
| Патока | Антон Самасюк | • | 6 |
| Падазяраны | Марыя Рэмжа | • | 12; 18 |
| Рыбакі | • | • | 10; 12 |
| Рыболы[в] | Віктар Крукоўскі | • | 16 |
| Страшава | Мікола Лебядзінскі | 96 | 1; 7 |
| Тапаляны | Марыя Паўлоўская, Ларыса Яворская | • | 5; 13 |
| Трасьцянка | Андрэй Сергяюк, Надзея Савіцкая | 160 | 1; 19 |
| Валілы | • | 60 | 1 |
| Войшкі | Кацярына Рамановіч, Вера Ясюк | 110 | 1 |
| Зьверкі | Барыс Субоцін | • | 8; 13 |
| **Сакольскі павет** | | | |
| Хільмоны | • | • | 20 |
| Хамантоўцы | Ян Мікуць | • | 14 |
| Даўгасельцы[г] | Ян Сурмач | • | 9; 20 |
| Вялікія Азяраны | Марыя Бабко | • | 15 |
| Скраблякі | Тодар Налівайка | 43 | 1; 2 |
| **Ваўкавыскі павет** | | | |
| Луплянка | Тодар Гайдучэня | • | 17; 18 |
| Мастаўляны[д] | Баўтрамей Пэтэльскі | 86 | 1; 7 |
| Шымкі | Васіль Дзун, Сьцяпан Паленік | 75 | 12; 18 |

Тлумачэньні:
а. Паводле адміністрацыйнага падзелу 1943 г. (не паказаныя школы, якія знаходзяцца па–за мяжой ПНР).
б. Пададзеныя ў апытаньнях міністэрства асьветы зьвесткі аб існаваньні школаў у Новай Волі і Мастаўлянах у 1942/43 г., паводле ўспамінаў тагачасных настаўнікаў Арсеня Зіневіча і Міколы Лебядзінскага, не адпавядаюць рэчаіснасьці.
в. Школа дзейнічала да канца верасьня 1943 г.; заняткі былі спыненыя з прычыны хваробы настаўніка.
г. Школа дзейнічала ў другім паўгодзьдзі 1943/44 г.
д. Нумар крыніцы інфармацыі гл. у Дадатку да Табліцы 2.

**Дадатак да Табліцы 2 — нумары крыніцаў інфармацыі**

**А. Дакумэнтальныя матэрыялы:**

№ 1 — AAN, Warszawa, Zespół Min. Oświaty: Ankiety z 1946 r. “Szkolnictwo polskie jawne i tajne w okresie wojny i okupacji”, sygn. 59, 59a i 60.

№ 2 — Pow. Inspektorat Szkolny w Białymstoku, teczka szkoły Skrobiaki.

№ 3 — Pow. Inspektorat Szkolny w Hajnówce, teczka szkoły Odrynki.

**Б. Лісты ад інфарматараў (уласныя матэрыялы аўтара):**

№ 4 — Аляксей Грыцук, Кінгстан, Канада, 21.02.1968.

№ 5 — Надзея Ільляшэвіч, Шчэцін, 1.11.1967.

№ 6 — Міхал Красоўскі, Малынка, 18.10.1967.

№ 7 — Мікола Лебядзінскі, Страшава, 8.02.1965.

№ 8 — Юры Прыстром, Зьверкі, 1.12.1966.

№ 9 — Ян Сурмач, Кузьніца, 28.11.1966.

**В. Вусныя ўспаміны 1965—1968 г. (уласныя матэрыялы аўтара):**

№ 10 — Аляксандар Баршчэўскі, былы вучань школы ў Рыбакох, Варшава.

№ 11 — Васіль Дзун, Гайнаўка.

№ 12 — Арсень Зіневіч, Міхалова.

№ 13 — Уладзімер Карпянюк, Беласток.

№ 14 — Юры Кірмуць, Беласток.

№ 15 — Людміла Крукоўская, Бельск Падляскі.

№ 16 — Міхась Насовіч, Беласток.

№ 17 — Марыя Рэмжа, Луплянка.

№ 18 — Андрэй Сергяюк, Трасьцянка.

№ 19 — Ян Сурмач, Кузьніца.

№ 20 — Ян Чарнякевіч, Нарва.

№ 21 — Ларыса Яворская, Беласток.

*Пераклад зроблены паводле:*
Przegląd Historyczno–Oświatowy. 1976. № 3.

# Вечар паэзіі Надзеі Артымовіч

Вялікай нечаканасьцю для знаўцаў і аматараў паэзіі быў літаратурны вечар Надзеі Артымовіч, які адбыўся 8 сьнежня 1976 г. у варшаўскім клюбе БГКТ. І ня толькі таму, што гэта быў першы аўтарскі вечар паэтэсы, а ў першую чаргу дзякуючы новым, арыгінальным творчым якасьцям, якія прадэманстравала Надзея Артымовіч.

Сярод іх асаблівай увагі заслугоўваюць ня вымушаныя пагоняй за модай сучасная форма і стыль паэтычных твораў, а таксама нячаста сустраканы на нашым літаратурным палетку іх глыбокі філязофскі зьмест. Паэзія Надзеі Артымовіч — гэта перш за ўсё шматгранны сьвет яе ўнутраных перажываньняў і роздумаў, так характэрных і тыповых для сучаснай індустрыяльнай эпохі. У такім пляне творчасьць паэтэсы ў ніякай меры не грашыць суб'ектыўнасьцю: яна ўнівэрсальная, паколькі адлюстроўвае ўнутраны сьвет заблытаных у вялікіх гарадох выхадцаў ня толькі зь Беластоцкага краю.

Няма ў паэзіі Надзеі Артымовіч імкненьня да актыўнага ўзьдзеяньня на чытача, на авалоданьне яго пачуцьцямі, думкамі. Сьведчыць аб гэтым эмацыянальная ўстрыманасьць і адсутнасьць назойлівых кропак над "і" ў галіне зьместу. Ніякі верш паэтэсы ня ёсьць гатовым прадуктам, які прызначаецца для беспасярэдняй і лёгкай кансумпцыі. Тым ня менш, а можа, якраз таму ўспрымаюцца яны з зацікаўленьнем, выклікаюць уражаньне інтэлектуальнай ненасытнасьці і вымушаюць чытача задумоўвацца. Гэтыя якасьці ствараюць камунікацыйнасьць твораў паэтэсы.

Адзін зь першых вершаў Надзеі Артымовіч пад загалоўкам "Думка" быў надрукаваны на ніваўскай "Літаратурнай старонцы" ў 1970 годзе. Наступныя гады прынесьлі на яе творчым шляху далейшыя здабыткі. Не зьмяніўся толькі асноўны напрамак яе творчасьці, якім пасьлядоўна была паэзія роздуму.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1977. 9 студзеня.

# Габілітацыя др. Э. Смулковай

“Пытаньні націску ў беларускай мове” — такая тэма габілітацыйнай дысэртацыі др. Эльжбеты Смулковай, пасьпяховая абарона якой адбылася ў кастрычніку 1976 г. у Варшаўскім унівэрсытэце. Дысэртацыя ёсьць вынікам шматгадовых дасьледаваньняў, якія праводзіліся Э. Смулковай на тэрыторыі Беларускай ССР і Беласточчыны, і абапіраецца на аналіз дыялектнага матэрыялу ў супастаўленьні зь беларускай літаратурнай мовай. Яна атрымала высокую ацэнку вядомых польскіх славістаў — праф. А. Абрэмбскай–Яблонскай з Варшаўскага ўнівэрсытэту, праф. В. Курашкевіча з Познаньскага ўнівэрсытэту, праф. З. Тапалінскай з Польскай акадэміі навук і дацэнта Варшаўскага ўнівэрсытэту др. А. Барташэвіча.

Навуковае дасягненьне др. Э. Смулковай — першае ў гісторыі польскай беларусістыкі. Яно ёсьць сьведчаньнем разьвіцьця гэтай маладой навуковай дысцыпліны, а таксама росту творчага патэнцыялу Э. Смулковай — навуковага работніка катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту ад першага году яе існаваньня.

Аб гэтым пераканаўча сьведчаць вынікі дыдактычнай і навукова–дасьледчай працы др. Э. Смулковай. Яна аўтар двухтомнай манаграфіі, прысьвечанай вывучэньню сельскагаспадарчай лексыкі ў гаворках Беласточчыны, а таксама звыш трыццаці артыкулаў і распрацовак, якія датычаць разнастайных пытаньняў беларускай лінгвістыкі. Сярод іх пачэснае месца займаюць праблемы вывучэньня гаворак беларускамоўных абшараў Беласточчыны.

Цікава падкрэсьліць, што мовазнаўчыя працы Эльжбеты Смулковай друкаваліся ня толькі ў польскіх акадэмічных зборніках і спэцыялізаваных часопісах, але спаткаліся таксама з зацікаўленьнем выдавецтваў Беларусі, Масквы, Чэхаславакіі і нават амэрыканскага ўнівэрсытэту Мічыган. Чытачоў “Нівы”, несумненна, зацікавіць і тое, што др. Э. Смулкова — навуковы сакратар мовазнаўчай камісіі Беластоцкага навуковага таварыства і сябар яго праўленьня.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1977. 16 студзеня.

# Вывучаюцца літаратурныя сувязі

Дасьледаваньне беларускай літаратуры і ў прыватнасьці польска–беларускіх літаратурных сувязяў — адзін з напрамкаў работы Працоўні ўсходнеславянскіх літаратур, якая дзейнічае ў рамках Закладу славяназнаўства Польскай акадэміі навук пад кіраўніцтвам дацэнта др. габ. Васіля Белаказовіча. Гэта другая, пасьля Варшаўскага ўнівэрсытэту, акадэмічная ўстанова ў Польшчы, якая займаецца вывучэньнем спамянутых пытаньняў.

У шматбаковай беларусісцкай дзейнасьці працоўні на ўвагу заслугоўвае падрыхтоўка доктарскіх дысэртацыяў, прысьвечаных вывучэньню польска–беларусіх літаратурных сувязяў. Ужо закончана дысэртацыя Ул. Стохеля “Міцкевіч, Пушкін і Шаўчэнка ў беларускай літаратуры 1863—1917 г.”. Чарговыя тры тэмы распрацоўваюцца Ул. Манахам — “Беларускі фальклёр у творчасьці Міцкевіча, Сыракомлі і Ажэшкі”, Ул. Вільчынскім — “Сыракомля і ўсходнеславянскія літаратуры” і Вацлавам Шаршуновічам — “Погляды К.А. Яворскага на ўсходнеславянскія літаратуры”. Усе яны працуюць пад навуковым кіраўніцтвам дацэнта В. Белаказовіча.

Важнейшыя аспэкты доктарскіх дысэртацыяў, а таксама іншыя тэмы, якія датычаць літаратурнага ўзаемадзеяньня і супрацоўніцтва, абмяркоўваюцца на арганізуемых працоўняй навуковых сэсіях, у якіх удзельнічаюць спэцыялісты–літаратуразнаўцы з розных акадэмічных установаў Польшчы. На гэтых сэсіях былі прадстаўленыя і спамянутыя дасьледаваньні Ул. Стохеля, Ул. Манаха і Ул. Вільчынскага, а таксама праца В. Рудчыка “Польска–беларускае літаратурнае супрацоўніцтва першай паловы XIX стагодзьдзя”.

Найбольш цікавыя дасьледаваньні, якія праводзяцца ў рамках дзейнасьці Працоўні ўсходнеславянскіх літаратур, друкуюцца ў яе гадавіку “Studia polono–slavica–orientalia. Acta litteraria”. Прыемна заўважыць, што на яго старонках значнае месца займаюць пытаньні беларускай літаратуры і яе міжнародных кантактаў. Так, напрыклад, у першым выпуску “Студыяў” (1974 г.) зьмешчаны дасьледаваньні Ул. Манаха “Беларускі фальклёр у лірыцы Сыракомлі”, Ул. Вільчынскага “«Паштальён» Сыракомлі ўва ўсходнеславянскіх перакладах” і Ул. Стохеля — “Польская, расейская і ўкраінская літаратура на старонках «Нашай Нівы»”.

Другі том “Студыяў” (1975 г.) зьмяшчае распрацоўку Зоф’і Скібінскай–Харылы аб перакладах Міцкевічавага “Пана Тадэвуша” на беларускую мову, а таксама дасьледаваньне Сакрата Яновіча аб перакладах беларускай літаратуры ў пасьляваенны пэрыяд. Дзьве абшырныя тэмы прадстаўленыя ў леташнім выпуску гадавіка. Гэта працы Ул. Стохеля аб успрыняцьці творчасьці Міцкевіча, Пушкіна і Шаўчэнкі ў беларускай літаратуры 1863—1917 г. і Ул. Вільчынскага — “Сыракомля і ўсходнеславянскія літаратуры”. Варта падкрэсьліць, што гэтыя беларусіскія дасьледаваньні займаюць большую частку трэцяга выпуску “Студыяў”.

Важным напрамкам дзейнасьці працоўні ёсьць дакумэнтацыйна–бібліяграфічныя дасьледаваньні, якія датычаць успрыняцьця ўсходнеславянскіх літаратур у Польшчы і польска–ўсходнеславянскіх літаратурных кантактаў. Як паказалі гэтыя дасьледаваньні, на старонках “Вядомосьці літэрацкіх”[1] за ўсё міжваеннае дваццацігодзьдзе былі надру-

[1] “Wiadomości Literackie” (“Літаратурныя навіны”) — грамадзка–культурны штотыднёвік, выдаваны ў Варшаве ў 1924—1939 г. Першапачаткова быў папулярнай літаратурнай газэтай, але ў трыццатых гадох зьмяшчаў на сваіх старонках таксама праблемныя артыкулы на грамадзка–палітычную тэматыку. Рэпрэзэнтоўваў лібэральныя погляды. — *А.П.*

каваны ўсяго... чатыры артыкулы, прысьвечаныя беларускай літаратуры. Гэта своеасаблівы паказчык, які дазваляе зразумець і ацаніць рост зацікаўленьняў беларускай літаратурай у Польшчы, які адбыўся ў пасьляваенны пэрыяд.

Амбітныя пляны беларусісцкай навукова–дасьледчай дзейнасьці працоўні і ў бягучай пяцігодцы 1976—1980. Побач з далейшым разьвіцьцём спамянутых напрамкаў яе працы пачнецца падрыхтоўка абшырнага манаграфічнага выданьня “Гісторыі беларускай літаратуры”, апрацоўка якога будзе праводзіцца ў супрацоўніцтве з Акадэміяй навук БССР, а таксама навукоўцамі Варшаўскага і Ўроцлаўскага ўнівэрсытэтаў. Будзе гэта першая ў Польшчы грунтоўная праца, прысьвечаная беларускай літаратуры.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1977. 22 мая.

# Забытая ліра Веры Мурашкі

Постаць Веры Мурашкі доўгі час заставалася па–за ўвагай дасьледчыкаў–літаратуразнаўцаў. На гэта мелася некалькі прычын, зь якіх, бадай, найважнейшай была невялікая колькасьць яе вершаў, якія час ад часу зьяўляліся ў заходнебеларускім друку міжваеннай пары. Невядомы быў таксама і іх аўтар, які падпісваўся літаратурнымі псэўданімамі Вера Мурашка, В. Мурашка і Беларуская Мурашка.

Расшыфроўка аўтарскага псэўданіму прыйшла нечакана, калі ў часе архіўных дасьледаў над беластоцкім "Працэсам 45" (1923 г.) выявілася, што пад гэтай літаратурнай мянушкай выступала Вера Маслоўская — адзін зь вядучых дзеячоў процібуржуазнага руху на Беласточчыне ў 1921—1922 г., галоўны абвінавачаны ўва ўпамянутым працэсе, імя якой адбілася шырока ў тагачаснай беларускай і польскай прэсе. Ня менш нечаканай і хвалюючай была сустрэча з пражываючай у Супрасьлі, сёньня ўжо звыш 80–гадовай, але бадзёрай і поўнай аптымізму гэтай жанчынай. У выніку быў атрыманы ня толькі цікавы біяграфічны матэрыял, але і... тоўсты сшытак вершаў, якія паўвеку клапатліва перахоўваліся іх аўтарам.

Вера Мурашка (дзявочае прозьвішча — Матэйчук) нарадзілася 24 сакавіка 1896 г. у Супрасьлі ў малазямельнай сялянскай сям'і. Тут атрымала пачатковую асьвету, пасьля чаго працавала на тэкстыльнай фабрыцы Цытрона. Вызначылася як арганізатар забастоўкі работнікаў, за што была звольнена з працы. Цяжкае матэрыяльнае становішча не дазваляла на далейшую нармальную вучобу. Былі, аднак, здольнасьці і цяга да навукі. Вера вучылася дома і ў 1914 г. пасьпяхова здала экстэрнам выпускныя экзамэны ў вядомай Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі.

У 1917 г. Вера зноў у Сьвіслачы, гэтым разам на чатырохмесячных пэдагагічных курсах, якія працавалі пры новаарганізаванай беларускай настаўніцкай сэмінарыі. Закончыўшы іх, накіроўваецца ў вёску Грабавец Арлянскай гміны, дзе арганізуе беларускую народную школу, якой кіруе на працягу двух гадоў. У 1919 г. маладая настаўніца павышае свае кваліфікацыі на пэдагагічных курсах у Вільні, дзе ўключаецца ў рэвалюцыйны рух. У пачатку 1921 г. вяртаецца на Беласточчыну і разам з Германам Шыманюком (пс. "Скамарох") з Грабаўца[1] разгортвае шырока разгалінаваную падпольную дзейнасьць, за што была арыштавана буржуазнымі ўладамі і ў маі 1923 г. прыгаворана да шасьцігадовага турэмнага зьняволеньня.

Дзякуючы стараньням прадстаўніка савецкага Чырвонага крыжа ў Польшчы Стэфаніі Сэмпалоўскай[2] Вера вызваляецца з турмы датэрмінова (1927 г.), пасьля чаго як былы палітвязень доўгі час застаецца беспрацоўнай. Да любімай настаўніцкай прафэсіі вяртаецца ў 1939 г. ужо ўва ўмовах савецкай улады. Працавала ў Калантаях Ваўкавыс-

[1] Шыманюк–Парыш–Паплаўскі Герман (псэўд. Скамарох) (1892 — ?) — да канца 1921 г. быў артыстам маскоўскага тэатру "Буфф". Магчыма, агент АДПУ з 1921 г. У сьнежні 1921 г. вярнуўся у вёску Грабавец. Кіраўнік беларускага антыпольскага руху на Гарадзеншчыне. Узначальваў штаб Бельскага павету беларускіх партызанаў. Вясной 1922 г. разам зь Я. Грыцюком арганізаваў атрад у 15—24 чалавек, які зьдзейсьніў шэраг "бандыцкіх нападаў". 6 траўня 1922 г. польская паліцыя разьбіла лягер атраду Г. Шыманюка, але сам ён здолеў уцячы. Зь сярэдзіны 1922 г. Г. Шыманюк у Літве, а з канца 1923 г. — у БССР. З 1926 г. — сябра КП(б)Б. Скончыў камуністычны ўнівэрсытэт Беларусі пры Цэнтральнай саўпартшколе ў Менску. З 1930 г. працаваў у Полацкім райгандлі. З 1933 г. — кіраўнік Магілёўскага заавэтрабфаку. У 1937 г. арыштаваны органамі НКВД. Далейшы лёс невядомы. — *А.П.*

[2] Сэмпалоўская Стэфанія (1870—1944) — польская грамадзка–асьветная дзячка, з 1919 г. прадстаўніца савецкага Таварыства Чырвонага крыжа ў Польшчы. — *А.П.*

кага павету, Агароднічках каля Беластоку (1940—1946), Жаганю (1946—1951) і Супрасьлі. Ад 1958 г. — на пэнсіі.

Паэтычная творчасьць Веры Мурашкі вырасла на глебе нацыянальна–вызваленчай барацьбы працоўных заходнебеларускіх зямель у пачатку дваццатых гадоў, удзельнікамі якой былі сяляне, рамесьнікі і сельская інтэлігенцыя розных палітычных поглядаў і напрамкаў[3].

Старонкі гераічнага народнага змаганьня, у якім актыўны ўдзел прымае сама паэтэса, былі вядучым матывам усяго раньняга пэрыяду яе творчасьці. Варта заўважыць, што вершы гэтага часу зьяўляюцца ня толькі своеасаблівай дакумэнтацыяй настрояў і імкненьняў руху, але і важным інструмэнтам яго прапаганды. На гэта паказвае іх высокая грамадзянская заангажаванасьць, імкненьне ўзьдзеяньня на чытача, іх агітацыйная накіраванасьць, што нярэдка перавышае мастацкія сродкі і формы вершаскладаньня.

Гэтым мэтам служаць вершы “Мужык”, у якім акрамя гаротнай долі селяніна моцна акцэнтуецца ўсьведамленьне яго чалавечай годнасьці, а таксама “Ідзі!..” — зь ярка выражаным заклікам да працы і барацьбы за лепшую долю. Несумненную цікавасьць выклікае верш “Бацькаўшчыне”, угрунтаваны на матывах узброенага змаганьня партызанскага злучэньня, якое дзейнічала ў Белавескай пушчы пад камандаваньнем “Скамароха”, а таксама верш “Беларускім партызанам”, у якім паэтэса адгукнулася на крывавыя расправы палявых судоў над удзельнікамі падпольля.

Цяжка перажывала маладая паэтэса гады зьняволеньня, пакутлівая атмасфэра якіх знайшла адлюстраваньне ў значнай колькасьці вершаў, напісаных у 1923—1927 г. за кратамі варшаўскага “Павяка”[4] і беластоцкай турмы (“Думкі”, “За кратамі”, “Птушка”, “Вясна за кратамі” і іншыя). Яны складаюць выразна акрэсьлены тэматычны цыкль яе творчасьці, у якім плястычнае адлюстраваньне панурых турэмных будняў і пякучай тугі па свабодзе і радзімай старонцы (“Там, дзе Супрасьль, Белавежа, думкі там ляцяць...”) не пераходзіць у безнадзейнасьць і роспач, а чаргуецца з моцнымі акцэнтамі веры ў “вызваленьня (? — *Рэд.*) сонца”.

Аптымістычная візія жыцьця, якая не пакідае Мурашку нават у найцяжэйшыя хвіліны, шырока праяўляецца таксама ў яе лірыцы каханьня ці апісаньнях прыроды (“Успамін”, “Дзе, сонейка, ты”, “Прамень”, “У гаі”). Гэтая тэндэнцыя наглядаецца і ў своеасаблівым запаветным вершы “Хацела б я” зь ярка выражаным гуманістычным асэнсаваньнем маралі і суадносін паміж людзьмі.

Творчасьць Веры Мурашкі — слаўнай дачкі Беласточчыны — адыграла акрэсьленую ролю на першым этапе барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Цікава падкрэсьліць, што, пакуль вырасьлі і згуртаваліся пад сьцягамі Грамады і КПЗБ новыя творчыя сілы, Мурашка карысталася значнай папулярнасьцю ў асяродзьдзі Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі[5].

Аб гэтым сьведчыць верш Леапольда Родзевіча[6] “Начны сьветагляд”, прысьвечаны Веры Маслоўскай (Мурашцы), які быў надрукаваны ў віленскай газэце “Нашае жыцьцё”[7] (1923. 30 мая) і перадрукаваны Ўладзімерам Жылкам у праскім часопісе “Перавяс-

---

[3] Ладысеў У. Старонкі мужнай барацьбы // Голас Радзімы. 1977. 12 сьнежня.

[4] “Павяк” — турма ў Варшаве, збудаваная царскімі ўладамі ў 1829—1835 г. У міжваенны пэрыяд выконвала ролю сьледчай вязьніцы як для палітычных зьняволеных, так і крымінальных. На сёньняшні дзень не існуе. — *А.П.*

[5] Шырэй аб БРА гл.: Беларуская савецкая Энцыклапедыя. Т. 2. С. 228; Bergman A. Przyczynek do historii Białoruskiej Organizacji Rewolucyjnej // Przegląd Historyczny. 1977. Zesz. 1. S. 157. — *А.П.*

[6] Родзевіч Леапольд (1895—1938(?)) — заходнебеларускі паэт і драматург, актывіст КПЗБ. — *А.П.*

[7] “Нашае жыцьцё” — беларуская штотыднёвая газэта, друкаваны орган Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Выдавалася з 27 траўня па 26 чэрвеня 1923 г. пад рэдакцыяй Язэпа Лагіновіча (выйшла 6 нумароў). — *А.П.*

ла”[8] (1923. № 1. Лістапад—сьнежань). Важным сьведчаньнем папулярнасьці паэтэсы зьяўляецца знойдзены ў яе асабістым архіве ліст рэдакцыі “Нашага сьцягу”* (органа БРА) ад 19 ліпеня 1923 г., адрасаваны пражываючай тады ў Агароднічках маці паэтэсы Ганьне Матэйчук, у якім чытаем:

> Паважаная пані! Выдавецтва беларускай газэты “Наш Сьцяг” просіць Вас не адмовіцца прысылаць нам па ніжэй пададзенаму адрасу фатаграфію Вашай гераічнай дачкі Веры. Калі маеце яе рукапісы, як вершы, апавяданьні ці іншае, дык таксама просім прыслаць заказной аплатай на наш рахунак. Вельмі пажадана было б мець хоць бы кароткае жыцьцёапісаньне п. Веры. Нецярпліва чакаем адказу. Пішыце па адрасу: Wilno, Wileńska 12 m. 6, Redakcja “Nasz Ściah”. Сакратар выдавецтва (—)[9].

Невядома, ці вершы Мурашкі паслала тады яе маці ў рэдакцыю “Нашага Сьцягу”. Нічога ня ведае аб гэтым і сама паэтэса, якая тады знаходзілася ў турме. Знойдзены затое верш Мурашкі, прысьвечаны газэце “Вольны Сьцяг”**, дасланы нелегальна з–за турэмных кратаў і надрукаваны ў гэтай жа газэце (1923. 16 верасьня). Ён паказвае ня толькі на ідэйныя сувязі аўтара з БРА, але таксама на мэтазгоднасьць і пэрспэктыўнасьць далейшых пошукаў яе літаратурнай спадчыны. Ад іх пасьпяховасьці залежыць апрацоўка поўнага літаратурнага партрэта Веры Мурашкі — цікавага прадстаўніка беларускай паэзіі Беласточчыны міжваеннай пары.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1978. 5 сакавіка.

[8] Часопіс “Перавясла” выдаваўся “Аб’яднаньнем беларускага паступовага студэнцтва” ў Чэхаславаччыне зь лістапада 1923 г. па красавік 1924 г. Вядомыя 2 нумары гэтага выданьня. — *А.П.*
[9] Цытаваны дакумэнт знаходзіцца ў асабістым архіве аўтара.
* Грамадзка–палітычная газэта “Наш Сьцяг” — орган Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, выходзіла ў Вільні з 5 чэрвеня да 12 жніўня 1923 г. пад рэдакцыяй Язэпа Лагіновіча. — *А.П.*
** Газэта “Вольны Сьцяг” выходзіла замест забароненага ўладамі “Нашага Сьцягу” з 26 жніўня па 14 кастрычніка 1923 г. Яе рэдактарам, як і “Нашага Сьцягу”, таксама быў Язэп Лагіновіч. — *А.П.*

# Пэйзажы Надзеі Артымовіч

Надзея Артымовіч нарадзілася 18 лютага 1946 г. у вёсцы Аўгустова на Бельшчыне, адкуль ужо летам таго ж году яе сям'я пераехала ў Бельск. Тут прайшло яе дзяцінства, тут хадзіла ў пачатковую школу і Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй імя Тарашкевіча. У 1965—1967 г. штудзіравала русістыку ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку, а ў наступныя гады — беларускую філялёгію ў Варшаўскім унівэрсытэце, які закончыла ў 1972 г. З гэтага часу Надзея жыве і працуе ў Варшаве, якая стала яе творчай майстэрняй, штодзённым натхненьнем і канвой для назіраньняў, роздумаў, ацэнак.

Паэтычны дэбют Надзеі Артымовіч адбыўся ў красавіку 1979 г. на ніваўскай "Літаратурнай старонцы" ("Ой, ляцелі гусі"). На працягу шасьці гадоў (1970—1975) у "Ніве" было надрукавана ўсяго 13 прапанаваных паэтэсай вершаў. Яе ўваход на радзімы парнас доўгі час быў незаўважальным у нашым літаратурным асяродзьдзі.

Разнастайнымі і дзіўнымі бываюць шляхі тварэньня. У выпадку Надзеі Артымовіч пераломным пэрыядам быў 1976 год, які прынёс раптоўную актывізацыю яе творчых сілаў. Можа, паўплывала на тое першая рэцэнзія, надрукаваная 11 красавіка 1976 г. у варшаўскім украінскім тыднёвіку "Наше слово"[1], можа, першы аўтарскі вечар, які адбыўся 8 сьнежня 1976 г. у варшаўскім клюбе БГКТ, можа, нешта іншае. Пачынаючы ад гэтага часу з творчай майстэрні Артымовіч выйшлі шматлікія новыя вершы, якіх ужо нямала друкавалася на старонках "Нівы", у сёлетнім "Беларускім календары", менскай "Маладосці" і іншых выданьнях. У пераважнай большасьці яны датычаць аднаго з найважнейшых і найцікавейшых пытаньняў нашых дзён, якім ёсьць складаны працэс духоўнай адаптацыі шматлікіх адзінак, якія ўва ўмовах паступаючай індустрыялізацыі апынуліся ў бурлівым віры жыцьця вялікіх гарадоў. У гэтым кантэксьце рэальная адлегласьць Бельск—Варшава ("Сон уцякае") ёсьць дробязьзю ў параўнаньні зь вялікімі праблемамі прыстасаваньня да новых умоў. Гэтыя цяжкасьці паэтэса асэнсоўвае па–майстэрску, прычым шчасьліва пазьбягае плыткага сэнтымэнталізму і настальгіі па адыходзячай традыцыйнай вёсцы. У гэтым заключаецца яе істотнае адрозьненьне ад большасьці "белавесцаў" старэйшага пакаленьня.

Ужо першыя рэцэнзіі і водгукі, якія паказаліся ў друку ў пачатку 1977 г., сьведчылі аб разнастайным разуменьні і ўспрыняцьці паэзіі Надзеі Артымовіч. Крытыкі ўгледзелі перш за ўсё фаталізм, трагізм, катастрафізм, на меру польскага паэта С. Ваячэка[2].

Варта заўважыць, што гэтыя ацэнкі абапіраліся на невялікую колькасьць яе вершаў, вядомых шырэйшаму колу чытачоў, і з гэтай прычыны ня ёсьць характэрнымі для ўсёй творчасьці. Хаця, з другога боку, можна сумнявацца, ці шырэйшае знаёмства з паэзіяй Надзеі Артымовіч паўплывае на зьмяншэньне крытычнага разнабою. За гэтым прамаўляе алегарычны характар яе творчасьці.

Вершы, якія да гэтай пары стварыла Надзея Артымовіч, можна падзяліць на тры тэматычныя цыклі. У першым зь іх пад умоўным загалоўкам "Грудка зямлі" моцна гучаць патрыятычныя матывы, увасабленьнем якіх ёсьць пакінуты родны кут, зямля

[1] "Наше слово" — украінская газэта, якая выдаецца ў Варшаве з 1956 г. Раней была органам Украінскага грамадзка–культурнага таварыства, цяпер — Аб'яднаньня украінцаў у Польшчы.

[2] Ваячэк С. — хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе польскі паэт Рафал Ваячэк (1945—1971), у творчасьці якога знаходзіла адлюстраваньне неўраўнаважанасьць і супярэчлівасьць характару аўтара. — *А.П.* Леанчук Я. Паэтычны плён "Белавежы" // Ніва. 1977. 6 сакавіка; Невулис З. ІІ пристрасть — поэзия / / Наше слово. 1977. 16 студзеня.— *Ю.Т.*

дзяцінства. Як трапна пісала камэнтар “Нашага слова” З. Невуліс, “у вершах гэтага цыклю... родная мова, грудка роднай зямлі становяць корань псыхалягічнага існаваньня, бо — як заўважае паэтэса — кожны чалавек калісь знаходзіць сваю крыніцу”. Родны горад, матчына хата нагадваюць спакойную прыстань, уцечку ад шумнага жыцьця вялікага гораду[3].

Вершам гэтага цыклю, як “Мой родны горад” (гл.: Літаратурная старонка. № 196), “Грудка зямлі” (№ 156), “Ёсьць тое” (№ 221), “П’ю прагна” і іншым, характэрны ідэйны і эмацыйны зарад, вера і здаровы аптымізм. Па сіле экспрэсіі яны займаюць выключнае месца ў беларускамоўнай літаратуры Беласточчыны.

Значныя мастацкія вартасьці выяўляе лірыка каханьня (цыкль “Мы так блізка сябе”). Аднак найбольш выразна паэтэса паказала сваю творчая манеру ў вялікім цыкле рэфлексійных вершаў “Варшаўскія пэйзажы”. Водгук чулай асобы на разнастайныя праявы жыцьця знайшоў тут шырокае адлюстраваньне як у дыяпазоне праблемаў, так і ў мастацкіх сродках іх выяўленьня. Ці можна ацэньваць гэты цыкль як прыняцьце непазьбежнага фаталізму, трагізму ў сутыкненьні асобы зь цьвёрдай рэчаіснасьцю? Напэўна, не! Згушчэньне чорных фарбаў, якое наглядаецца ў такіх вершах, як “Ёсьць бераг” (№ 214), “Пэйзаж” і іншых, пераплятаецца тут з пачаткова асьцярожнымі акцэнтамі веры і надзеі (“Уваходзь ты, сонца” — № 224, “Пазаві мяне” — № 173), каб урэшце ўспыхнуць моцным акордам упэўненасьці перамогі дабра над злом, выліцца ў аптымістычную візію будучыні, што цудоўна загучала ў такіх вершах, як “Не гавары” (№ 208), “У руках нашых” (Маладосць. 1977. № 12), “І зноў разьліецца спакой” (№ 224) і іншых.

Паэзія Надзеі Артымовіч — цікавая і арыгінальная зьява на нашай літаратурнай ніве. Важнай яе рысай ёсьць найперш праўдзівасьць, шчырасьць, што ставарае добрыя перадумовы для яе ўспрыняцьця знаўцамі і аматарамі рэфлексійнай паэтычнай творчасьці.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1978. 3 верасьня.

# М. Арол — нашаніўскі пясьняр Беласточчыны

На працягу мінулых гадоў некаторыя прадстаўнікі аб'яднаньня "Белавежа"[1] нямала зрабілі для пашырэньня погляду, быццам бы сучасная беларускамоўная літаратура Беласточчыны вырасла па сутнасьці на пустым палетку, а мясцовы фальклёр, вучнёўскія вершыкі і сялянская графаманія былі, бадай, усім, што папярэджвала творчыя здабыткі белавесцаў[2].

Такая пастаноўка пытаньня абмяжоўвае дыяпазон нашай літаратурнай традыцыі і не садзейнічае яе вывучэньню. І таму не мэтанакіраваныя пошукі, а толькі выпадкова знойдзеная ў віленскай "Krynicy" (№ 12. 25.03.1925)[3] кароткая інфармацыя пра М. Арла дазволіла "адкрыць", што ўжо паўстагодзьдзя да ўзьнікненьня аб'яднаньня "Белавежа" паэтычны палетак Беласточчыны рунеў прыгожай і шматабяцальнай зеленьню. Яго вядучым прадстаўніком быў спамянуты М. Арол — сучасьнік Купалы, Коласа і Багдановіча, актыўны ўдзельнік адраджэнскага руху нашаніўскай пары.

М. Арол (сапраўднае імя і прозьвішча Сьцяпан Пятэльскі) нарадзіўся каля 1890 г. у Гарадку Беластоцкага павету ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. Тут ён атрымаў пачатковую адукацыю, пасьля чаго вучыўся ў царкоўна–настаўніцкай школе ў Ялоўцы, якую закончыў у 1909 г. На працягу наступных гадоў малады настаўнік жыў і працаваў у Ялоўцы і Гарадку, а таксама ў Струзе і Парэччы на Гарадзеншчыне.

У пачатку першай сусьветнай вайны сям'я Арла эвакуавалася ў Расею, а ён сам быў пакліканы ў армію. У 1916 г. за баявыя заслугі быў узнагароджаны вышэйшым тагачасным ваенным ордэнам — Георгіеўскім крыжам. Апошнюю вестку да сям'і выслаў 25 верасьня 1917 г. з Украіны, дзе стацыянавала яго 16 артылерыйская брыгада. Там жа памёр ад эпідэміі тыфу ў канцы 1917 або ў 1918 г., пражыўшы ўсяго 28 гадоў[4].

Рэвалюцыйныя падзеі 1905 г., узьнікненьне першых беларускіх газэт, а таксама аднаўленьне беларускага кнігадруку былі магутнымі фактарамі, якія садзейнічалі разьвіццю творчых сілаў маладога паэта. Пачынаючы з 1909 г., з розных куткоў Беласточчыны і Гарадзеншчыны, дзе пражываў Арол, плылі ў рэдакцыю "Нашай Нівы" яго

---

[1] "Белавежа" — беларускае літаратурнае аб'яднаньне, утворанае 8 чэрвеня 1958 г. у Беластоку пры рэдакцыі газэты "Ніва". Яго сябрамі былі і ёсьць большасьць найбольш вядомых беларускіх пісьменьнікаў з Польшчы. — *А.П.*

[2] Barszczewski A. Ruch literacki "BTSK" (informator). Białystok, 1972; Janowicz S. Kilka uwag o literaturze białoruskiej i jej recepcji w Polsce Ludowej // Studia Polono–Slavica–Orientalia. T. 2. Ossolineum; Швэд. Беларускі парнас у Народнай Польшчы // Беларускі каляндар на 1978 год. Беласток, 1978.

[3] У газэце "Kryniсa" 25 сакавіка 1925 г. была надрукавана зацемка наступнага зьместу:

> Наша Рэдакцыя атрымала крыху вестак аб беларускім маладым песьняру, які падпісваў свае вершы псэўдонімам М. Арол. Праўдзівае імя і прозьвішча Арла — Сьцяпан Петэльскі. Друкаваў ён свае вершы яшчэ прад вайной у беларускай "Нашай Ніве". Родам Арол з м. Гарадка–Беластоцкага, скончыў царкоўную вучыцельскую школу ў м. Ялаўка, Ваўкавыскага пав. у 1909 г., дзе і быў вучыцелем у народнай школе. Памёр, як кажуць яго родныя, у 1917 ці 1918 г. на Украіне з тыфусу, маючы 28 г. ад роду.

[4] Спамянутыя біяграфічныя дадзеныя падаюцца на падставе цытаванай "Krynicy" і зьвестак, атрыманых 20.07.1977 г. ад пляменьніцы Арла — Ганны Марцінчык зь вёскі Меляшкі Гарадоцкай гміны. Зь яе асабістага архіву паходзіць зьмешчаны здымак паэта, які адшукаў Юры Геніюш, за што складаю яму сяброўскую падзяку.

творы, большая частка якіх друкавалася ў 1911—1913 г. Зьмяшчаліся яны таксама ў нашаніўскіх "Беларускіх календарах", "Зборніку «Нашай Нівы»", менскай "Лучынцы" і іншых тагачасных выданьнях. Агулам да першай сусьветнай вайны ў друку зьявілася да паўсотні асобных твораў нашага земляка.

Асноўным жанрам творчасьці Арла была паэзія, у якой найбольш выразна выявілася яго таленавітасьць, на што ўжо ў 1913 г. зьвярнуў увагу такі аўтарытэтны крытык, як Максім Багдановіч[5].

Вершы Арла адлюстроўваюць шырокі дыяпазон пытаньняў тагачаснай эпохі, якія ў большай ці меншай меры хвалявалі ўсю пляяду нашаніўскіх паэтаў. Сярод іх праблемы сацыяльнай рэчаіснасьці і вобраз паняволенага роднага краю займаюць, несумненна, цэнтральнае месца.

Вершам гэтага цыклю характэрны ня толькі высокі грамадзкі патас, публіцыстычная накіраванасьць, але і непахісная вера ў лепшую будучыню, у перамогу праўды над сіламі зла і цемры ("У дарозе", "Досьвіта", "Сычам і совам" і іншыя). Моцным акордам веры ў творчую здольнасьць чалавека загучаў, у прыватнасьці, верш "Сяўцом" — своеасаблівы заклік "усіх здольных, ліцамі ўдалых" да стваральнай працы на сваёй радзімай "дзікай травой пакрытай" ніве.

Як слушна заўважыў менскі літаратуразнаўца М. Мушынскі, "ужо ў раньніх творах Арла ярка праявілася схільнасьць да філязафічнасьці, да шырокай абагульненасьці малюнка і ўзбуйненьня мастацкага вобразу. Рэальны плян у яго вершах нярэдка пераплятаецца з абагульнена сымбалічным[6].

Вершы такога тыпу, як "Сьмерць і жыцьцё", "Надзея", "Агляд жыцьця", "Ахвяра", "Арфа" і іншыя складаюць даволі выразна акрэсьлены цыкль, які займае значнае месца ў творчасьці паэта.

Ёсьць у Арла шэраг вершаў, у якіх ён карыстаецца фальклёрнай паэтыкай, творча пераасэнсоўваючы народна–песенныя традыцыі сваёй Беласточчыны. Аб гэтым сьведчаць, у прыватнасьці, такія творы, як казка "Доля і жабрак", лірычныя "Ноч" і "Песьня" ("Каб была я птушкай") ці "Сьмерць мужыка". Цікава заўважыць, што яго другая "Песьня" ("Сядзіць голуб на бярозе") амаль жыўцом вынята з фальклёрнага рэпэртуару і зь некаторымі зьменамі сьпяваецца яшчэ сёньня на Беласточчыне.

Важнае месца ў пісьменьніцкай спадчыне Арла займаюць празаічныя творы — апавяданьні і пераклады з расейскай мастацкай літаратуры. Аднак найбольшай увагі заслугоўвае яго публіцыстыка. Надрукаваныя ў "Нашай ніве" і "Беларускіх календарах" (1911—1914 г.) яго артыкулы "Аб беларускай песьні", "З нашага жыцьця", "Сьпявайце свае песьні", "Аб беларускай моладзі" сьведчаць аб вялікіх здольнасьцях Арла як наглядальніка і камэнтатара разнастайных аспэктаў грамадзкага і культурнага жыцьця народу на пачатку нашага стагодзьдзя, як прапагандыста прагрэсу роднага асяродзьдзя. У гэтым пляне надзвычай цікавай ёсьць яго карэспандэнцыя з Гарадка (Наша Ніва. 1911. 25 жніўня) — нячаста сустракаем па сіле экспрэсіі заклік да мясцовай беларускай інтэлігенцыі парваць з алькагалізмам і карцёжніцтвам, з культурнай апатыяй і нацыянальным нігілізмам, так характэрнымі для беспрасьветнай эпохі царскага самадзяржаўя.

Творчасьць М. Арла, якая атрымала станоўчую ацэнку літаратуразнаўцаў М. Багдановіча, М. Гарэцкага, І. Дварчаніна, М. Мушынскага[7], да гэтай пары дасьледавана выключна недастаткова. Значная частка яго вершаў яшчэ невядома шырэйшаму колу чытачоў. Пры гэтым варта ўспомніць, што напярэдадні першай сусьветнай вайны Арол падрыхтаваў і паслаў у Віленскае выдавецкае таварыства зборнік сваіх вершаў "Лірнік", які ў сувязі з ваеннымі падзеямі не дачакаўся выданьня. На жаль, не дачакаўся ён гэтага і

[5] Багдановіч М. Збор твораў. Т. 2. Менск, 1968. С. 130.

[6] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2. Мінск, 1969. С. 203.

[7] Мушынскі Міхась (нар. 1931) — беларускі літаратуразнаўца, дасьледчык беларускай літаратуры XX ст.

на працягу мінулага 60–годзьдзя, хаця, паводле атрыманых зьвестак, рукапіс “Лірніка” захаваўся ў Вільні[8].

Постаць М. Арла — выдатнага сына Беластоцкай зямлі, які разам з славутымі нашаніўцамі ўдзельнічаў у стварэньні новай беларускай літаратуры, — важная зьява ў нашай культурнай і літаратурнай традыцыі. Памяць аб ім жыве і ў яго родным мястэчку, дзе яшчэ летам 1977 г. удалося пачуць ад мясцовых старажылаў вершы, аўтарства якіх прыпісвалася Арлу. Здаецца, што час ужо беластоцкім літаратарам заняцца шчыльнейшым вывучэньнем жыцьцёвага і творчага шляху заўчасна памерлага і забытага паэта, а таксама выданьнем усёй яго літаратурнай спадчыны. Было б гэта доказам пашаны нашчадкаў, помнікам на невядомую магілу нашага земляка.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1978. 5 верасьня.

[8] Зборнік М. Арла “Лірнік” быў выдадзены толькі ў 1991 г. у Менску. — *А.П.*

# Школа на Сьвентаерскай вуліцы

Яна была зьявай незвычайнай, як незвычайным і складаным было жыцьцё ў акупаванай Варшаве. І хаця мінула ўжо шмат гадоў, хаця даўно заціх грукат другой сусьветнай вайны, памяць аб гэтай школе ўсё захоўваецца яе настаўнікамі і выхаванцамі. Іх успаміны паслужылі для характарыстыкі той атмасфэры і ўмоў, у якіх адбывалася дзейнасьць школы, якая была адзіным, беспрэцэдэнтым здарэньнем у гісторыі беларускай асьветы. Дазволілі яны таксама раскрыць не адну цікавую старонку інтэрнацыяналістычнага саўдзельніцтва шэрагу яе пэдагогаў у барацьбе польскага народу з фашысцкімі захопнікамі.

## Як узьнікла школа

Ажыцьцяўляючы плян культурнага зьняволеньня польскага народу, фашысцкая адміністрацыя ліквідавала на тэрыторыі т.зв. генэральнай губэрні вышэйшыя навучальныя ўстановы і агульнаадукацыйныя сярэднія школы. Гэтыя распараджэньні не датычылі пачатковых школаў, якія працягвалі дзейнічаць пры адпаведна абмежаванай праграме навучаньня. Як піша Ст. Дабранецкі ў сваёй працы “Niezwyciężona szkoła”[1] (Варшава, 1947. С. 39), у апошнія гады акупацыі ў Варшаве было 130 такіх школаў. Сярод іх была беларуская пачатковая школа на вуліцы Сьвентаерскай, 18, паміж плошчай Красінскіх і Цеснай вуліцай. Сёньня будынак гэты не існуе.

Калі само існаваньне школы не было вынятковай зьявай, то яе мова навучаньня выклікае абгрунтаваную цікавасьць. Якія былі чыньнікі ўзьнікненьня гэтай школы, улічваючы акалічнасьць, што дзейнасьць любой пачатковай школы немагчымая бяз моладзі, безь сямейнай базы?

Такой грамадзкай базай была невялікая калёнія беларусаў, якія ў пошуках лепшай долі пасяліліся ў Варшаве. Паводле даваеннага перапісу насельніцтва, у 1931 г. тут пражывала звыш 600 беларусаў. Гэтая (несумненна заніжаная) колькасьць праяўляла ў наступныя гады далейшы рост. Паявіліся студэнты, інтэлігенцыя, стараньнем якіх ладзіліся вечарыны, канцэрты, а ў 1938 г. было легалізавана сваё Асьветнае таварыства.

Няма патрэбы ўяўляць усе перашкоды, якія стаялі на шляху бацькоў, зацікаўленых у адкрыцьці школы: не было памяшканьня, не хапала падручнікаў і настаўнікаў. Усё гэта — не гаворачы ўжо аб цяжкасьцях ваеннага часу — сур’ёзна стрымлівала падрыхтоўчыя мерапрыемствы. Толькі да восені 1942 г. было знойдзена і адрамантавана памяшканьне, скамплектаваны пэдагагічны пэрсанал і ўладжаны фармальнасьці з школьнай адміністрацыяй, якую ў той час прадстаўляла гарадзкая Школьная ўправа. Паведамляючы аб гэтым, газэта “Раніца” пісала 30 жніўня 1942 г., што школа атрымае статус “дзяржаўнай”. Такім чынам, яна была падпарадкаваная варшаўскай Школьнай управе, зь бюджэту якой аплачваліся настаўнікі і паступалі іншыя сродкі на бягучыя выдаткі школы.

Зыходным пунктам у складаным працэсе арганізацыі школы была канцэнтрацыя дзяцей, якія пражывалі ў разнастайных раёнах Варшавы. Гэтае пытаньне было вырашана шляхам арганізацыі інтэрнату, які знаходзіўся ў памяшканьні школы. Тут пад апекай яго кіраўнічкі Клеапатры Паўлоўскай і настаўніц–выхавацельніц Зоф’і Дабрынскай і Людмілы Панько школьнікі жылі, харчаваліся і рыхтавалі ўрокі. Значную матэ-

[1] “Неперамоганая школа” (пол.) — *А.П.*

рыяльную дапамогу вучням, згуртаваным у інтэрнаце, аказала варшаўская арганізацыя самадапамогі — *Rada Główna Opiekuńcza*[2].

## Адзіная ў генэральнай губэрні

Заняткі ў школе на Сьвентаерскай вуліцы пачаліся 1 верасьня 1942 г. і адбываліся на працягу двух школьных гадоў — 1942/43 і 1943/44. Гэта была невялікая школа. Згодна з ацэнкай К. Паўлоўскай і З. Дабрынскай, яна налічвала каля 60 вучняў, што адпавядала ёмкасьці інтэрнату. Пры такой невялікай колькасьці вучняў у школе не існавалі рэгулярныя клясы. Вучні падразьдзяляліся на групы, якія адпавядалі спалучаным клясам, у рамках якіх адбывалася навучаньне прыблізна па праграме сямігадовай школы. Прадметамі навучаньня былі: беларуская мова, арытмэтыка, прыродазнаўства, хімія, гісторыя, рэлігія, сьпеў і фізкультура і іншыя. Значнае месца ў школьных занятках адводзілася мастацкай самадзейнасьці.

Увесь гэты абсяг навучаньня ажыцьцяўляўся фактычна без падрабязнай афіцыйнай праграмы. Праўда, як устаноўлена, такая праграма апрацоўвалася кіраўніцтвам школы і падавалася гарадзкой Школьнай управе для зацьвярджэньня, аднак гэта была толькі фармальная працэдура. У гэтым можна не сумнявацца: наўрад ці тагачасная школьная адміністрацыя магла займацца ўсур'ёз праграмамі для гэтай адзінай у генэральнай губэрні школкі.

У такіх умовах настаўніцкі пэрсанал арыентаваўся ў асноўным на праграмы польскіх сямігодак, наколькі гэта дазваляла спэцыфіка школы. Гэтая акалічнасьць аблягчалася і тым, што школа фактычна працавала без падручнікаў, што зноў патрабавала ад яе настаўнікаў вялікай ініцыятывы і пэдагагічнага ўмельства ў перадачы вучням матэрыялу.

## Пад шыльдай школы

Арганізацыя працэсу навучаньня і яго выхаваўчы напрамак залежалі ня толькі ад пэдагагічных кваліфікацыяў школьнага і інтэрнацкага пэрсаналу. У той грозны час — час барацьбы з фашызмам — выключна важнымі былі таксама маральна–палітычныя якасьці настаўнікаў і выхавацеляў. Кім былі гэтыя людзі?

У пошуках адказу на гэтае пытаньне мы адведалі былую кіраўнічку інтэрнату Клеапатру Паўлоўскую ў яе кватэры на Апачынскай вуліцы ў Варшаве.

> Ніхто з маіх супрацоўнікаў ня меў тады ўяўленьня, — гаворыць Паўлоўская, — што ў трыццатыя гады я была дзяячом МОПРу[3] і блізкім супрацоўнікам Баляслава Берута. Зразумела, строга закансьпіраванай была таксама мая сувязь з узьніклай у студзені 1942 г. Польскай рабочай партыяй[4].

---

[2] Rada Główna Opiekuńcza (Галоўная апякунчая рада) — дабрачынная арганізацыя, якая легальна дзейнічала на акупаваных немцамі польскіх землях з 1940 г. Займалася арганізацыяй шпіталяў, сіроцкіх дамоў, кухняў для бедных і г.д. Патаемна супрацоўнічала з Арміяй Краёвай. — *А.П.*

[3] МОПР — Міжнародная арганізацыя дапамогі барацьбітам рэвалюцыі, створаная Камінтэрнам у 1922 г. Фармальна ставіла перад сабой выключна дабрачынныя мэты, але фактычна была адным з інструмэнтаў для пашырэньня камуністычнай ідэалёгіі ўва ўсім сьвеце. У міжнародным маштабе фактычна перапыніла сваю дзейнасьць пасьля пачатку другой сусьветнай вайны, аднак савецкая сэкцыя МОПРу працавала да 1947 г. — *А.П.*

[4] Польская рабочая партыя (Polska Partia Robotnicza), ПРП — палітычная партыя, створаная ў студзені 1942 г. польскімі камуністамі, якія знаходзіліся ў той час на тэрыторыі СССР. Кіравалася ў сваёй дзейнасьці інструкцыямі з Масквы, змагалася з уплывамі Арміі Краёвай. Пасьля ўваходу ў Польшчу савецкіх войскаў актывісты ПРП склалі аснову новага польскага дзяржаўнага кіраўніцтва. У 1948 г. ПРП аб'ядналася з Польскай сацыялістычнай партыяй у Польскую аб'яднаную рабочую партыю (ПАРП), якая ўтрымлівала ўладу ў Польшчы да 1989 г. — *А.П.*

«Ганка» — такі быў тады мой падпольны псэўданім. Неяк летам 1942 г., выконваючы партыйнае даручэньне, я паступіла на працу ў інтэрнат пры беларускай школе на Сьвентаерскай вуліцы. Гэта давала магчымасьць адхіліць увагу фашыстаў ад майго памяшканьня на Маршалкоўскай, 48, у якім знаходзілася канспірацыйная кватэра кіраўніцтва падпольнай ППР"[5].

З чуласьцю ўспамінае Клеапатра Паўлоўская сваіх выхаванцаў, зь якімі прабывала безупынна на працягу амаль двух гадоў.

Не было вучняў з па–за інтэрнату, якія даходзілі б у школу з гораду, — працягвае яна. — Усе яны былі вельмі бедныя. Усе — беларускай нацыянальнасьці і ў пераважнай большасьці — каталіцкага веравызнаньня. Гэтым тлумачыцца факт, што ў школе вывучалася рэлігія каталіцкая, а не праваслаўная. У школе і інтэрнаце дзеці размаўлялі па–беларуску. На гэтай мове гаварылі яны паміж сабой і з бацькамі, хаця нярэдка паслугоўваліся і польскай,

— канчае свой расказ Клеапатра Паўлоўская.

Пад шыльдай Сьвентаерскай школы дзейнічаў таксама Васіль Літвінчык, і супрацоўнікам ён быў вядомы як энэргічны кіраўнік школы і здольны выкладчык беларускай мовы і некаторых іншых прадметаў. Аднак ніхто зь іх ня меў тады ўяўленьня, што Васіль Літвінчык, сябар ВКП(б) з 1920 г., быў актыўным удзельнікам Кастрычніцкай рэвалюцыі, за што пазьней указам Вярхоўнага Савету СССР яму быў прысвоены "Ордэн Чырвонай зоркі"[6].

Ніхто з выпадковых людзей ня мог тады ведаць, што гэты чалавек і ў гады фашысцкай акупацыі быў зьвязаны з падпольлем, аб чым сьведчаць паказаньні яго супрацоўніцы Клеапатры Паўлоўскай.

Такім чынам, кіруючыя пасты як у школе, так і ў інтэрнаце знаходзіліся ў руках вопытных падпольшчыкаў–камуністаў. Толькі пры глыбокай канспірацыі сваіх антыфашысцкіх поглядаў і дзейнасьці гэтыя людзі маглі забясьпечыць засваеньне вучнямі праграмнага матэрыялу і адначасна зрабіць шмат для іх патрыятычнага ўзгадаваньня і аховы маладых душ перад фашысцкім ачмурэньнем.

На такі выхаваўчы напрамак школы паказвае таксама Зоф'я Дабрынская, якая ў шэрагах Арміі Краёвай (псэўданім "Эва") удзельнічала ў вызваленчай барацьбе польскага народу. У школе яна вяла заняткі па беларускай мове да кастрычніка 1943 г., калі пасьля канспірацыйнага правалу была вымушана перайсьці на нелегальнае становішча. Яна была аўтарам двух падручнікаў па арытмэтыцы — "Зборнікаў арытмэтычных задачаў і прыкладаў" для першай і другой клясы.

Цёплыя ўспаміны захоўваюць былыя вучні Сьвентаерскай школы аб Людміле Панько, якая з майстэрствам і самаадданасьцю прывівала моладзі любоў да роднай беларускай песьні. Яна скампанавала тады некалькі песень, якія былі апублікаваныя ў 1975 г. у беластоцкім "Беларускім календары". Адна зь іх — "Вітаем мы вас, госьці дарагія" — сьпявалася вучнямі ў бомбасховішчы, калі над горадам паяўлялася савецкая авіяцыя... Заняткі па фізкультуры вёў малады настаўнік Антон Таранда. Не ўстаноўлена прозьвішча настаўніка па арытмэтыцы, прыродазнаўстве і хіміі, які ў памяці вучняў застаўся як "тоўсты".

Не ўстаноўлена таксама шмат іншых эпізодаў з жыцьця школы, якія з часам зацерліся ў памяці. Запомніліся толькі найбольш нештодзённыя, хвалявальныя — вясёлыя і трагічныя, зь якіх складаліся акупацыйныя будні. Такія, як, напрыклад, навагоднія елкі зь Дзедам Марозам або летнік у Забалоцьці Бела–падляскай гміны, арганізаваны ў

[5] Пасьля вайны К. Паўлоўская працавала ў апараце Краёвай рады нарадовай і службе аховы здароўя. Шэраг цікавых зьвестак аб яе жыцьці і рэвалюцыйнай дзейнасьці зьмешчаны ўва ўспамінах: Kwiatkowski Jan (Kościecki Stanisław). Urodziłem się w Płońsku... Wspomnienia z pracy i walki. Warszawa, 1972.

[6] Беларускі каляндар на 1972 год. Беласток, 1971. С. 54.

ліпені і жніўні 1943 г. з выдатнай дапамогай пражываўшага там Пятра Ластаўкі. Назаўсёды засталіся ў памяці таксама і такія ўражаньні, як ліквідацыя варшаўскага гета і зьнішчэньне яго габрэйскага насельніцтва, што адбылося даслоўна на вачох сьвентаерскай дзятвы, ці ратунак, які знайшоў у інтэрнацкай спальні перасьледаваны гестапа падпольшчык — друкар з наборам канспірацыйных шрыфтаў...

## Накшталт эпілёгу

Пасьля заканчэньня заняткаў у чэрвені 1944 г. дзеці не паехалі на летні адпачынак. Засталіся ў інтэрнаце. На ўсходзе ўжо грымеў вызвольны наступ Чырвонай Арміі, а ў горадзе штораз больш пахла паўстаньнем. На працягу ліпеня бацькі паступова забіралі сваіх дзяцей з інтэрнату дамоў, і, калі 1 жніўня пачалося Варшаўскае паўстаньне, інтэрнат быў пусты... Так закончылася двухгадовае існаваньне беларускай асьветнай пляцоўкі на Сьвентаерскай вуліцы.

Незайздросным быў лёс вучняў Сьвентаерскай школы. Адны загінулі ў час паўстаньня, іншыя апынуліся ў канцлягерох, куды фашысты дэпартавалі насельніцтва гораду і адкуль ня ўсе вярнуліся ў Варшаву. Па–рознаму склаліся лёсы і яе настаўнікаў. Васіль Літвінчык і Людміла Панько падаліся на ўсход насустрач наступаючай Чырвонай Арміі і ўжо ў верасьні 1944 г. працягвалі пэдагагічную дзейнасьць у Беларускай гімназіі, якая ўзьнікла ў вызваленай Гайнаўцы. Клеапатра Паўлоўская і Зоф'я Дабрынская ўдзельнічалі ў Варшаўскім паўстаньні, а пасьля яго капітуляцыі — у нядолях выгнананага з гораду насельніцтва. Сёньня абедзьве жывуць у Варшаве.

* * *

Пасьля дванаццаці гадоў ад гэтых падзеяў, вясной 1956 году, у адбудаванай сталіцы ўзьнікла чарговая ў гісторыі Варшавы беларуская арганізацыя — аддзел Беларускага грамадзка–культурнага таварыства. Першым яго штатным сакратаром была Ніна Гайлевіч — выхаванка Сьвентаерскай школы.

*Друкуецца паводле:* Беларускі каляндар на 1978 г. Беласток: БГКТ, 1978.

# Жыцьцё для асяродзьдзя

Нарадзіўся Мікола Лебядзінскі 26 студзеня 1899 г. у вёсцы Страшава былой Сьвіслацкай воласьці Ваўкавыскага павету. Яго дзіцячыя гады не вызначаліся нічым асаблівым: бацькі — Васіль і Феадосія — абое страшаўскія сяляне, мелі на галаве ня толькі свае дзесяціны, але і сяміасабовую чародку адных сыноў. Аднак, нягледзячы на сямейныя і гаспадарскія турботы, яны ведалі цану грамаце і імкнуліся вывесьці сваіх дзяцей “у людзі”. Такім грамадзкім авансам у дарэвалюцыйныя гады была прафэсія сельскага настаўніка. Стаў ім найстарэйшы сын Лебядзінскіх Язэп, такую ж будучыню рыхтавалі яны і малому Міколку.

Спачатку ён вучыўся ў страшаўскага “дырэктара”, наступны год — у Мастаўлянах, і, урэшце, у Падазяранскай народнай школе, дзе настаўнічаў яго брат Язэп. Гэтую школу закончыў Мікола ў 1912 г. з узнагародай. Увосень таго ж году ён паступае ў Беластоцкае вышэйшае пачатковае вучылішча, дзе ў 1915 г. атрымаў “малую матуру”.

У ходзе падзеяў першай сусьветнай вайны сям’я Лебядзінскіх разам з сотнямі тысяч жыхароў Беласточчыны эвакуавалася ў глыб Расеі. Тут, у надволскім горадзе Цецюшы Казанскай губэрні шаснаццацігадовы юнак атрымаў магчымасьць працягваць адукацыю на трохгадовых настаўніцкіх курсах, якія закончыў летам 1918 г. з правам і абавязкам працы ў земскай школе. Яго пэдагагічная дзейнасьць пачалася, аднак, аж у далёкай Омскай губэрні і пасьля кароткатэрміновай службы ў арміі працягвалася да 1923 г.

У 1923 г. вяртаецца ён у роднае Страшава, дзе ўжо знаходзілася асірацелая пасьля сьмерці бацькі сям’я.

Не парадавала сэрца маладога настаўніка доўгачаканая радзіма. Вайна пакінула тут папялішчы, і ўсе сілы трэба было накіраваць на аднаўленьне разбуранай гаспадаркі. Разбурэньне тэкстыльных фабрык у Гарадку і іншых ваколіцах (мясьцінах? — *Рэд.*)Беласточчыны абмяжоўвала магчымасьць дадатковых заработкаў. Усё гэта ўплывала на перанасяленьне беластоцкіх вёсак і абумоўлівала нізкі жыцьцёвы ўзровень іх насельніцтва.

Цяжкае сацыяльнае становішча сялянства паглыблялася жорсткім нацыянальным прыгнётам.

Зразумела, што ў такіх варунках Мікола Лебядзінскі з энтузіязмам успрыняў вестку аб утварэньні Беларускай сялянска–работніцкай грамады, праграма якой адлюстроўвала сацыяльныя і нацыянальныя спадзяваньні народных масаў. Неўзабаве пасьля заснаваньня Грамады ён быў ня толькі сябрам, але і актыўным яе дзеячом і прапагандыстам на Беласточчыне. Між іншым, у 1925 г. арганізаваў грамадаўскія гурткі ў Страшаве, Зубках і Грыбаўцах, склікаў сходы, наладжваў культурныя мерапрыемствы, распаўсюджваў сярод насельніцтва беларускае друкаванае слова. Разам з сваімі гурткамі ўдзельнічаў у мітынгах насельніцтва, якія адбываліся ў Беластоку з нагоды прыездаў беларускіх паслоў Пятра Мятлы і Ігната Дварчаніна, а таксама кіраваў акцыяй па адкрыцьцю беларускай школы ў Страшаве[1].

Ува ўсёй гэтай дзейнасьці Мікола Лебядзінскі ўтрымоўваў цесную сувязь з сваім братам Васілём — сябрам КПЗБ, які на даручэньне партыі інсьпіраваў і цікавіўся грамадзкай дзейнасьцю ў Страшаве і суседніх вёсках.

У студзені 1927 г. Беларуская сялянска–работніцкая грамада была дэлегалізавана буржуазным урадам[2]. Адначасова пракацілася хваля паліцэйскіх рэпрэсіяў. Не абмінулі

[1] Аб гэтым шырэй гл.: Навуковы зборнік. Беласток: БГКТ і БНТ, 1974. С. 110—111.

[2] У студзені 1927 г. польскія ўлады ажыцьцявілі арышты галоўных лідэраў БСРГ, у першую чаргу паслоў польскага сойму Браніслава Тарашкевіча, Сымона Рак–Міхайлоўскага, Паўла Валошына і Пятра Мятлы. Афіцыйная ж дэлегалізацыя партыі адбылася ў сакавіку 1927 г. — *А.П.*

яны і Міколу Лебядзінскага, які пасьля вобыску і канфіскацыі дакумэнтаў страшаўскага гуртка быў арыштаваны, пакараны грашовым штрафам і аддадзены пад нагляд паліцыі.

Усе гэтыя меры ня толькі не паралізавалі волю да змаганьня, але дазволілі страшаўцам яшчэ лепш усьвядоміць сапраўдныя намеры ўраду. Сьведчаньнем гэтага ёсьць факт, што ў кароткі час пасьля роспуску Грамады ў Страшаве ўзьнікае арганізаваны Лебядзінскім гурток Таварыства беларускай школы (ТБШ), які ў новай форме працягваў папярэднюю работу. Зь вялікай упартасьцю, перамагаючы пастаянныя перашкоды з боку адміністрацыі, тут далей арганізуюцца розныя культурна–асьветныя мерапрыемствы. Сярод іх заслугоўвае ўвагі салідны драматычны гурток у Гарадку, які з удзелам страшаўскіх самадзейнікаў паставіў некалькі спэктакляў, між іншым, “Паўлінку” Я. Купалы.

У гэты час Лебядзінскі цесна супрацоўнічае зь Піліпам Кізевічам[3] — сябрам Гарадзенскай акруговай управы ТБШ. Не мінуў Страшава і Гарадок і сакратар Галоўнай управы ТБШ Рыгор Шырма[4], які тады высока ацаніў мастацкі ўзровень гарадоцкага хору і захапляўся майстэрствам народных сьпевакоў у Страшаве[5].

Арганізаваныя і кіраваныя Міколам Лебядзінскім гурткі Грамады і ТБШ разьвівалі і ўмацоўвалі ў народзе вартасьці сваёй нацыянальнай культуры, пашыралі веды аб сацыялістычным будаўніцтве ў савецкай Беларусі.

Ува ўмовах савецкай улады нарэшце мог і Мікола Лебядзінскі вярнуцца да любай настаўніцкай прафэсіі. Летам 1940 г. у Сьвіслачы быў арганізаваны раённы курс для павышэньня пэдагагічных кваліфікацыяў мясцовых настаўнікаў. Разам з сваімі калегамі паглыбляў там свае веды і Мікола Лебядзінскі.

Аднак нядоўга давялося яму карыстацца магчымасьцю нармальнай настаўніцкай працы. 22 чэрвеня 1941 г. пачалося гітлераўскае нашэсьце на Савецкі Саюз, а праз некалькі дзён — трохгадовая акупацыя Беласточчыны. Зыходзячы з таго, што славянскія народы павінны быць малапісьменнымі, паслухмянымі нявольнікамі трэцяга райху, беластоцкі крайскамісар не дазваляў у першыя гады акупацыі адкрываць у гэтым павеце нават пачатковых школаў. Нягледзячы на гэта, Мікола Лебядзінскі не пакідае сваёй гуманнай і патрыятычнай прафэсіі і арганізуе таемную беларускую школку для старэйшых дзетак. Яна была раскрыта фашыстамі, і толькі вялікі хабар выратаваў яе настаўніка ад канцлягеру. У гэты час Лебядзінскі ўключаецца ў антыфашысцкую партызанскую барацьбу і выконвае абавязкі сувязнога пры камандаваньні брыгады імя К. Каліноўскага[6].

Ува ўмовах усё большых паражэньняў на Ўсходнім фронце і росту партызанскага руху на Беласточчыне фашысцкія акупанты зьмянілі сваю тактыку ў школьнай справе, якая, аднак, ня мела нічога супольнага з імкненьнем забясьпечыць асьветныя патрэбы насельніцтва[7].

Летам 1943 г. створаны пры Цывільнай управе Беластоцкай акругі г. зв. галоўны школьны інспэктарат зьвярнуўся да Міколы Лебядзінскага з патрабаваньнем адкрыць школу ў Страшаве. Пасьля кансультацыі з камандаваньнем сваёй брыгады і атрыманьня ўказаньняў аб неабходнасьці супрацьдзеяньня фашысцкай ідэалёгіі, восеньню 1943 г.

---

[3] Кізевіч Піліп (1893 — ?) — беларускі грамадзка–палітычны і культурна–асьветны дзяяч, у міжваенны пэрыяд супрацоўнік Таварыства беларускай школы ў Горадні і Беластоку. Пасьля другой сусьветнай вайны жыў у Польшчы, сябра праўленьня Беларускага грамадзка–культурнага таварыства. — *А.П.*

[4] Шырма Рыгор (1892—1978) — беларускі культурны і грамадзкі дзяяч, у міжваенны пэрыяд адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. — *А.П.*

[5] Шырма Рыгор. Песня — душа народа. Мінск, 1976. С. 131 і 154. — *А.П.*

[6] Брыгада імя К. Каліноўскага — савецкая партызанская брыгада, якая дзейнічала на Гарадзеншчыне і на Беласточчыне ў 1943—1944 г. Яе камандзірам адзін час быў вядомы беларускі пісьменьнік Аляксей Карпюк. — *А.П.*

[7] Гл. “Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе”. С. 772—789 у гэтым выданьні. — *Рэд.*

ён пачынае заняткі ў Страшаўскай школе. Утрымоўвалася яна з складчын бацькоў, і ў чатырох клясах вучылася 95 вучняў з Страшава, Меляшкоў і Белявіч. Працэс навучаньня абапіраўся на мадыфікаваную праграму савецкай пачатковай школы пры адначасовым нелегальным выкарыстоўваньні беларускіх савецкіх падручнікаў.

У ліпеньскія дні 1944 г. вызваленая Чырвонай Арміяй Беластоцкая зямля будзілася да новага жыцьця. Новы шлях мірнай працы адкрываўся і перад Міколам Лебядзінскім.

Ужо ў першыя дні верасьня 1944 г. працягвае ён сваю працу ў чатырохкляснай страшаўскай беларускай школе, якую адкрыў без надзеі на хуткае забесьпячэньне падручнікамі.

> Інакш і быць не магло, — успамінае страшаўскі настаўнік. — У той час пераважная частка Польшчы была яшчэ акупавана немцамі, а на вызваленай тэрыторыі Беласточчыны толькі што ствараліся адміністрацыйныя органы і школьныя ўлады. Многія школы наогул не працавалі.

Перад многімі нашымі землякамі адкрыліся магчымасьці раптоўнага грамадзкага авансу: выйсьці з забітай вёскі ў Беласток ці мо нават яшчэ вышэй — гэта ж было нешта, аб чым раней можна было толькі марыць! Агульная хваля пацягнула і Лебядзінскага. Восеньню 1950 г. назначаецца ён загадчыкам вялікай школы ў Гарадку, дзе працуе да 1 сакавіка 1951 г., пасьля чаго едзе ў Кракаў на гадавы вышэйшы настаўніцкі курс, адкуль ужо не вяртаецца ні ў Страшава, ні ў Гарадок.

У 1952/53 г. Мікола Лебядзінскі ўжо на пасадзе намесьніка дырэктара Беластоцкага пэдліцэю, а праз год — намесьніка дырэктара Беластоцкай агульнаадукацыйнай XI–годкі ТПД пры вуліцы Мархлеўскага. Аднак абедзьве дырэктарскія пасады не былі трывалыя. У маі 1954 г. ён апынуўся ў Ваяводзкім цэнтры ўдасканаленьня асьветных кадраў[8] (ВОДКО), дзе кіраваў сэкцыяй навукі аб канстытуцыі.

Празь некалькі гадоў Мікола Лебядзінскі вяртаецца да працы ў беларускім школьніцтве. Пачаткова ён паглыбляе свае веды на курсах беларускай мовы ў Аўгустове (1954 г.) і Суляюўку пад Варшавай (1955 г.), пасьля чаго ў 1958 г. назначаецца кіраўніком сэкцыі беларускай мовы ў Беластоцкім акруговым мэтадычным цэнтры, дзе працаваў да верасьня 1965 г. Адсюль на працягу амаль васьмі гадоў ён візытаваў дзясяткі школаў, выказваючы пасьлядоўную дбайнасьць пра ўзровень навучаньня роднай мовы. Такім руплівым, тактоўным і замілаваным у сваёй справе пэдагогам застаецца ён у памяці многіх настаўнікаў Беласточчыны.

Незалежна ад абавязкаў візытатара на працягу 1959—1968 г. Лебядзінскі працаваў выкладчыкам беларускай мовы ў гарадоцкай пачатковай школе. Адначасова прымаў актыўны ўдзел у дзейнасьці Беларускага грамадзка–культурнага таварыства і неаднаразова выбіраўся ў яго Галоўнае праўленьне.

Сёньня самотны пэнсіянэр часта ўспамінае свае мінулыя гады — гады радасныя і цяжкія, але заўсёды працавітыя, якімі звычайна характарызуецца жыцьцё кожнага сумленнага чалавека. Не бяз гонару ўспамінае Мікола Лебядзінскі і сваіх вучняў, немалая чародка зь якіх стала вядомымі дзеячамі і спэцыялістамі. Любіць цікавіцца пажылы пэдагог і гісторыяй роднай асьветы, увасабленьнем якой стала яго ўласнае жыцьцё. Любіць таксама выхоўваць гэтую зацікаўленасьць у іншых, як, напрыклад, у аўтара гэтых радкоў.

*Друкуецца паводле:* Беларускі каляндар. Беласток, 1979.

[8] У пазьнейшыя гады перайменаваны на Акруговы мэтадычны цэнтар.

# Пра Гальляша Леўчыка

Прапанова рэдактара Валкавыцкага[1] напісаць нешта пра Леўчыка з нагоды яго юбілею — сотай гадавіны з дня нараджэньня — паказалася мне вельмі прывабнай. Бо як жа інакш! Пражыў паэт у Варшаве роўна сорак гадоў (1904—1944), адсюль ішлі ў “Нашу Ніву” яго вершы, тут адбывалася яго грамадзкая і культурная дзейнасьць — неразлучная частка беларускага руху ў Варшаве... Ужо і загаловак пачаў “выклёўвацца” — нешта накшталт “Леўчык — беларускі пясьняр Варшавы”. Думалася яшчэ — праз прызму Леўчыка лягчэй і больш канкрэтна можна глянуць і на гісторыю беларускіх арганізацыяў у сталіцы, што даўно ўжо прасілася пад пяро.

Хутка, аднак, давялося сустрэцца зь непрадбачанымі цяжкасьцямі ў ажыцьцяўленьні гэтай задумы. Ужо першае знаёмства з матэрыяламі паказала, што ня ўсім нашаніўцам шанцавала. У выніку, даступныя апублікаваныя біяграфічныя зьвесткі пра Гальляша Леўчыка (Ляўковіча) надзвычай убогія і параўнальна нязначна перавышаюць дасягненьні літаратуразнаўства эпохі Дварчаніна[2]. Можна таму мець абгрунтаваныя прэтэнзіі да гісторыкаў літаратуры, асабліва нашых, варшаўскіх, якія не заняліся вывучэньнем складанага жыцьцёвага шляху паэта, калі сярод нас яшчэ былі шматлікія яго прыяцелі і знаёмыя.

Пётар Ластаўка, які жыў у Варшаве ад пачатку 30–х гадоў і ведаў Леўчыка асабіста, заняўся ў палове 60–х гадоў дасьледаваньнем яго жыцьцяпісу. У першую чаргу — высьвятленьнем акалічнасьцяў сьмерці паэта. На вялікі жаль, заўчасная сьмерць не дазволіла яму закончыць гэтую працу[3], а карэспандэнцыя і запіскі, якія засталіся ў сямейным архіве Ластаўкі, не зьмяшчаюць нічога, што паказала б на канкрэтныя рэзультаты яго пошукаў.

У такіх умовах лічу патрэбным прывесьці жменьку біяграфічных фактаў, якія могуць быць прыдатныя дасьледчыкам літаратурнай спадчыны Гальляша Леўчыка.

Хіба першую зьвестку пра дзейнасьць Леўчыка ў Варшаве зьмясьціла 1(14) сьнежня 1911 г. “Наша Ніва”. Як паведамляў яе варшаўскі карэспандэнт Саўка Барывой[4], 21 лістапада 1911 г. адбылася тут беларуская вечарына, арганізаваная студэнтамі Варшаўскага ўнівэрсытэту:

> ...на сцэне мы ўбачылі на лаўцы хворага, слабога, ледзь жывога мальца–беларуса, у зрэбнай сарочцы, прыкрытага старэнькай сьвіткай — тып праўдзівага беларуса–мужыка. Быў то малады пясьняр Леўчык Гальляш. Ён слабым голасам пад гітару прапяяў «Мне трэба ўмерці» і апроч таго пасьля шмат чаго дэклямаваў. Усё выпаўніў шчыра, і публіцы надта спадабаўся.

Як вядома, ува ўмовах царскага рэжыму адзінай беларускай арганізацыяй, якая існавала ў Варшаве, было зямляцтва студэнтаў–беларусаў Варшаўскага імпэратарскага ўнівэрсытэту, якім апекаваўся вядомы вучоны Яўхім Карскі[5]. Студэнтам памагалі беларусы — жыхары гораду, якія мелі сваё сяброўскае нефармальнае згуртаваньне. Паводле Людвікі

---

[1] Валкавыцкі Георгі (нар. 1923) — галоўны рэдактар газэты “Ніва” ў 1956—1987 г. — *А.П.*

[2] Маецца на ўвазе беларускае літаратуразнаўства 1920–х гг., калі выйшла “Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры” Ігната Дварчаніна (1927 г.). — *А.П.*

[3] Пятро Ластаўка памёр у 1968 годзе. — *А.П.*

[4] Саўка Барывой — псэўданім Рамуальда Зямкевіча. — *А.П.*

[5] Яўхім Карскі з 1894 г. быў прафэсарам Варшаўскага ўнівэрсытэту, а ў 1905—1910 г. ягоным рэктарам. — *А.П.*

Войцікавай, у ім удзельнічалі Ванда Авуля–Кандрацкая (пазьней Ястшэмбская). Вітальд і Францішак Выславухі, Віктар Галаўня, Язэп Гапановіч, Лявон Дубейкаўскі, Марыля Залеўская, Рамуальд Зямкевіч, Гальляш Леўчык, Людвік Славінскі, Уладзіслаў Сталыгва з жонкай і дзяцьмі ды іншыя.

Пасьля першай сусьветнай вайны зноў бачым Леўчыка ў Варшаве. 15 ліпеня 1925 г. ён быў выбраны сакратаром праўленьня Беларускага камітэту ў Варшаве. Паведамляючы аб гэтым, віленская "Kryniса" пісала 9 жніўня 1925 г., што памяшканьне камітэту знаходзіцца на вуліцы Макатоўскай, 12, кв.3.

Хацелася глянуць на гэты дом, дзе Леўчык кожны дзень выконваў свае сакратарскія абавязкі. Вось і Макатоўская — у самым цэнтры гораду, шукаем нумар 12... ды што гэта? Гэта ж Дом мэтадыстаў[6], з капліцай, адміністрацыйнымі і рэдакцыйнымі памяшканьнямі і вядомай ува ўсёй Варшаве школай англійскай мовы. Неяк успамінаецца дзіцячая гульня "цёпла , цёпла...". Леўчык быў пратэстантам, гэта вядома, а знойдзены сьлед вёў несумненна ў правільным напрамку. Усё ж сумневы не зьнікалі: добра, ёсьць нумар 12, але ж гэта сёньняшні, а як вядома, ад 1925 г. у Варшаве ператраслося амаль усё, ня толькі нумары дамоў. Але аб тым, як там было калісь, ня памятаюць ні суседзі, ні сучасныя старажылы. Пацьвярджэньне знайшлося толькі ў бібліятэцы: так, нумар не зьмяніўся.

Лякалізацыя Беларускага камітэту ў Доме мэтадыстаў выклікае зразумелую цікавасьць. Нячаста здараецца, каб адна арганізацыя трымала бескарысьліва пад сваім крылом іншую арганізацыю. Гэта наводзіць на думку магчымасьць узаемных сувязяў, супрацоўніцтва. У чым гэта праяўлялася і якая была тут роля Леўчыка — вось пытаньні, якія ўсё чакаюць дасьледчыка. Урэшце, справа не такая ўжо другарадная, паколькі ў чэрвені 1926 г. Леўчык выбіраецца сакратаром створанага ў Варшаве цэнтральнага праўленьня Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры. Магчыма, што і ў гэтым выпадку не абышлося без супрацоўніцтва з мэтадыстамі, нягледзячы на ўдзел у цэнтральным праўленьні БІГіК лідэра беларускай хадэцыі кс. Адама Станкевіча. За гэтым прамаўляюць тагачасныя зацікаўленьні мэтадыстаў беларускім рухам[7].

У 30–я гады Гальляш Леўчык быў служачым у Найвышэйшым судзе ў Варшаве і адначасна шмат працаваў над перакладамі рэлігійнай літаратуры на беларускую мову, якія паявіліся ў выданьнях "Арфа Сіану" (Сіёну? — *Рэд.*), "Новае Жыцьцё" і "Дух Праўды". У гэты час, калі цэнтральнае праўленьне БІГіК было ўжо ў Вільні, у Варшаве дзейнічаў толькі Беларускі студэнцкі саюз (1930—1933), а потым — Асьветнае таварыства беларусаў. Гальляш Леўчык ня ўдзельнічаў у кіраўніцтве гэтых арганізацыяў, аднак бываў іх частым госьцем, выступаў з сваімі вершамі.

Цікавыя зьвесткі аб жыцьці Леўчыка ў першыя гады другой сусьветнай вайны зьмясьціў Ян Пятроўскі[8] ў сваіх успамінах, выдадзеных з нагоды 85 гадавіны з дня нараджэньня паэта[9]. Іх вартасьць дакумэнтальная, паколькі яны ёсьць пераказам слоў самога Леўчыка, зь якім Ян Пятроўскі сустрэўся ў сьнежні 1941 г. у Варшаве. Варта пазнаёміцца зь некаторымі фрагмэнтамі гэтых успамінаў перш за ўсё з увагі на розныя недакладнасьці, якія паявіліся на старонках друку.

---

[6] Мэтадысты — пасьлядоўнікі адной з плыняў пратэстантызму. У міжваенны пэрыяд разгарнулі актыўную місіянэрскую дзейнасьць у Польшчы, і адным зь іх асноўных цэнтраў была Вільня. — *А.П.*

[7] Пра сувязі мэтадысцкай царквы з заходнебеларускім нацыянальным рухам 2 грунтоўныя артыкулы выдаў Алег Латышонак: Białoruski ruch narodowy a protestantyzm w II Rzeczypospolitej // Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno–wschodnich II Rzeczypospolitej (Białoruś Zachodnia i Litwa Wschodnia) w latach 1939—1941. Warszawa, 1995. S. 33—40; Беларускія палітыкі й пратэстанты. Ад "Гомана" да Грамады // Спадчына. 2003. № 3. — *А.П.*

[8] Пятроўскі Ян (1905—2002) — беларускі рэлігійны дзяяч, адзін з актывістаў беларускага пратэстанцкага руху ў міжваеннай Польшчы і ў пасьляваеннай эміграцыі. — *А.П.*

[9] Сьветач Хрыстовае Навукі. № 81. 1965.

Напярэдадні вайны (летам 1939 г.) Леўчык перабываў у Слоніме, а жонка знаходзілася ў Варшаве. Хутка пасьля таго, як немцы занялі Варшаву, Ляўковічыха накіравалася ў Слонім, да мужа. Прыблізна ў гэтым самым часе Ляўковіч пакінуў Слонім і пасьля многіх цяжкасьцяў, ідучы і едучы, прыбыў у Варшаву. У дарозе Ляўковічы разьмінуліся. Дайшоўшы да сваёй кватэры на Кашыкоўскай вуліцы, Леўчык пастукаў у дзьверы, спадзеючыся, што дзьверы адкрые жонка. На зьдзіўленьне, перад ім стаяў чужы мужчына... Хутка выясьнілася, што людзі, якія занялі кватэру, нічога ня ведаюць пра папярэдніх кватарантаў і пра кватэру.

Такім чынам, прыбыўшы ў Варшаву, Ляўковіч застаўся адзін, бяз жонкі, кватэры і сваёй каштоўнай бібліятэкі. Не сядзеў ён на грузавішчы, — як піша Людвіка Войцікава[10], — паколькі дом ня быў разбураны. Адначасова ня мог быць тады (у 1940 г.) Леўчык у Слоніме, як мяркуе Алег Лойка[11] (гл.: Горад над Шчарай // Маладосць. 1976. Красавік. С. 149).

Пазбаўлены ўласнай кватэры і найбольш неабходных сродкаў да жыцьця, бадзяўся Леўчык у цяжкія акупацыйныя гады па чужых кутах. Нейкі час хаваўся ў камітэцкай сталоўцы[12]. Паводле сьведчаньня Баляслава Манкевіча, на працягу 1940/41 і 1941/42 г. яны працавалі разам зь Леўчыкам у якасьці выкладчыкаў на курсах беларускай мовы. У 1942 або 1943 г. Леўчык жыў некалькі месяцаў у прытулку ў падваршаўскай мясцовасьці Гура Кальварыя, пасьля чаго зноў вярнуўся ў Варшаву. Тут пражываў у прытулку на Кракаўскім прадмесьці (цяпер дом “Caritas”), які вялі манашкі. Быў ужо хворы, і прытулак даваў яму ня толькі дах над галавой, цёплую страву, але і найбольш неабходную лекарскую апеку.

Аб апошніх днях жыцьця Леўчыка — толькі домыслы... Істотнае пра лёс паэта расказаў у сакавіку 1979 г. тагачасны служачы Беларускага камітэту Мікола Ждановіч. Ён спаткаўся зь Леўчыкам у ліпені 1944 г. на два–тры тыдні перад Варшаўскім паўстаньнем у памяшканьні камітэту. Тады Леўчык сабраў свае дакумэнты і разьвітаўся з М. Ждановічам, паведамляючы яму, што зьбіраецца ехаць у Слонім, які, дарэчы, быў ужо вызвалены Чырвонай Арміяй. Невядома, аднак, ці выйшаў ён з Варшавы, тым больш невядома, ці дасягнуў сваю радзіму.

Пётар Ластаўка праводзіў пошукі сярод жыхароў Варшавы, якія пасьля капітуляцыі паўстаньня былі выгнаныя з гораду ў Прушкоўскі лягер[13]. Ён атрымаў зьвесткі, быццам Леўчык памёр па дарозе з Варшавы ў Прушкаў і што пасьля вайны прытулак наведала жонка паэта, якая забрала яго рэчы. На мой погляд, гэтыя чуткі мала праўдападобныя. Па–першае, наўрад ці пераажыў цяжка хворы 64–гадовы Леўчык пекла паўстаньня, прычым трэба ўлічыць, што ён знаходзіўся ў раёне Старога Места, дзе зьнішчэньні і ахвяры цывільнага насельніцтва былі найбольшыя ў горадзе. Па–другое, як піша Ул. Калесьнік[14], жонка Леўчыка загінула ў часе акупацыі[15], і ўрэшце, па–трэцяе, сам прытулак быў дашчэнту разбураны, у сувязі з чым не было куды і па што прыяжджаць.

Невядомая сьмерць Гальляша Леўчыка — не вынятак. Найхутчэй ён падзяліў лёс многіх тысяч жыхароў Варшавы, якія загінулі бязь весткі ў трагічныя дні паўстаньня.

*Друкуецца паводле:* Беларускі каляндар. Беласток, 1980.

---

[10] Людвіка Войцікава — прозьвішча па мужу Людвікі Сівіцкай (Зоські Верас). — *А.П.*

[11] Лойка Алег (нар. 1933) — беларускі паэт і літаратуразнаўца. — *А.П.*

[12] Маецца на ўвазе сталоўка Беларускага нацыянальнага камітэту ў Варшаве. — *А.П.*

[13] Прушкоўскі лягер — лягер для ваеннапалонных, які месьціўся ў Прушкаве — невялікім гарадку недалёка ад Варшавы. Туды немцы зганялі ацалелых варшавян пасьля падаўленьня Варшаўскага паўстаньня. — *А.П.*

[14] Калесьнік Уладзімер (1922—1994) — беларускі пісьменьнік і літаратуразнаўца. — *А.П.*

[15] Калеснік У. Сцягі і паходні. Мінск, 1965.

# Капрызная “Кудзельніца”

Ужо больш дзесяці гадоў памяшканьне варшаўскага клюбу БГКТ пры Сэнатарскай вуліцы ўпрыгожвае цудоўная карціна Міхася Сеўрука, якая выяўляе маладую сялянку за кудзеляй. За гэты час карціна стала звычайнай часткай “краявіду” клюбу, яго наведнікі прывыклі да яе і, магчыма, не было б падставы да спэцыяльнага зацікаўленьня гэтым мастацкім творам, калі б не яго асаблівая гісторыя.

Бадай ці не ўпершыню паказала сябе наша прыгажуня ў бэрлінскай “Раніцы”, якая 6 чэрвеня 1943 г. зьмясьціла рэпрадукцыю карціны з кароткім паясьненьнем: “Сеўрука «Кудзельніца». Собскасьць Гарадзкой управы г. Баранавічаў”. Калі была створана “Кудзельніца”, газэта не паведамляла.

Ішлі гады, і рэпрадукцыя нашай карціны паявілася за акіянам, у нью–ёрскім літаратурна–мастацкім альманаху “Конадні” (1954. № 1. С.51). Тут яна атрымала новае імя — “Пральля” — і мэтрыку нараджэньня: 1943 год.

Прайшло яшчэ адно дзесяцігодзьдзе — і Сеўрукова “Кудзельніца” ўжо не ў рэпрадукцыях, а ў арыгінале завітала ў варшаўскі аддзел БГКТ. Прывезла яе непасрэдна пасьля вайны зь Беларусі ў Польшчу Антаніна Говар і запрапанавала таварыству купіць карціну. Паколькі Галоўнае праўленьне БГКТ ня мела на тое сродкаў (вядома!), справу ўзяла ў свае рукі грамадзкая салідарнасьць. Нашы члены Пятро Ластаўка, Васіль Рамановіч і Зыгмунт Селевіч ахвяравалі адпаведную суму грошай — і карціна стала нашай.

Пасьля рэстаўрацыі, якую выканаў інж. арх. Браніслаў Іванчык, 22 сьнежня 1974 г. “Кудзельніца” ў поўнай красе паўстала перад чытачамі “Нівы”, аднак і гэтым разам у новым увасабленьні — “Дзяўчыны за кудзеляй”. Адначасова, відаць, каб гісторыя не была нуднай, “Ніва” паінфармавала, што Сеўрук апошні раз бачыў свой твор у 1939 г., з чаго чытачы зразумелі, што ўзьнік ён, адпаведна, раней.

У апошні час “Кудзельніца” гасьцюе ў Менску. Ды вось і цяпер (няўжо традыцыя?) усё мяняе ня толькі сваё імя, але і ўзрост. У лютым 1980 г. яна паявілася ў “Маладосьці” (“За прасьніцай”, алей, 1941 г.) і амаль адначасова ў выдадзенай Саюзам мастакоў БССР кніжачцы “Міхась Сеўрук” — пад назвай “Папрадуха”, прычым зноў зь іншай датай нараджэньня: 30–я гады!

Урэшце капрызы красуні не на жарт усхвалявалі нашых хлопцаў. Зьнялі карціну, вынялі палатно з рамаў і давай шукаць сапраўдную мэтрыку. І знайшлі: 1942 год! Будзем спадзявацца, што гэтае “адкрыцьцё” дазволіць у будучыні ліквідаваць існы разнабой адносна даты намаляваньня карціны. Было б таксама культурна спыніць пошукі новых імён “Кудзельніцы”. Такой яна нарадзілася, так яе называў у 1974 годзе Міхась Сеўрук падчас свайго візыту ў Варшаве.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1981. 19 ліпеня.

# Невядомы нашанівец Янук Д.

У 1910 годзе на старонках “Нашай Нівы” пачалі друкавацца вершы, аўтар якіх скрываўся пад псэўданімам Янук Д. Аднак сапраўднае прозьвішча паэта доўгі час было невядомае. Больш таго, паводле Янкі Саламевіча[1] (Полымя. 1979. Сьнежань. С. 246), аўтарытэтныя беларускія літаратуразнаўцы прыпісвалі гэты псэўданім М. Арлу (Сьцяпану Пятэльскаму) быццам на падставе выказваньня Максіма Гарэцкага ў яго “Гісторыі беларускае літаратуры” (Вільня, 1920 г.).

Выпадае заўважыць, што Гарэцкі не дапусьціў памылкі, аб чым пераканаўча сьведчыць цытаваная ў яго падручніку (с. 198) апінія Максіма Багдановіча: “Арол і Янук Д. — людзі, што маюць палёт і талент, але мала шліфуюць яго”. Як бачым, Гарэцкі гаворыць *аб двух паэтах*, а не аб адным. Не сумняваўся ў гэтым таксама Ігнат Дварчанін (гл. яго: Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927. С. 329—331).

Віноўным гэтай блытаніны Арсень Ліс[2] лічыць акадэміка Карскага, які ў сваіх “Белорусах” (Т. 3. Ч. 3. С. 377) Янука Д. атаясамліваў з М. Арлом[3]. Аднак і тут толькі частка праўды. Бадай на той жа старонцы, пералічваючы вершы Янука Д., Карскі напісаў: “Д. Янук, вероятно то же, что Д/орошкевич/ Янук”. Значыць, ніхто зь літаратуразнаўцаў ня быў так блізкі да разьвязкі гэтага пытаньня як Карскі…

Расшыфроўка Янука Д., магчыма, зацягнулася б на яшчэ даўжэйшы час, калі б не сяброўская інсьпірацыя А. Ліса аўтару гэтых радкоў. Яшчэ ў часе падрыхтоўкі нарысу пра жыцьцё і творчасьць М. Арла (Ніва. 1978. 5 лютага) быў знойдзены яго верш “Пясьняр”, прысьвечаны Януку Д. (Наша Ніва. 1913. 14 лістапада), які наводзіў на думку магчымасьць іх асабістага знаёмства. Такое меркаваньне падмацоўвалі вершы Янука Д., дасыланыя ў “Нашу Ніву” *з Крынак і Семяноўкі*. Гэта ўжо паказвала, што Арол і Янук Д. сапраўды дзейнічалі ў той самай аколіцы. І ўрэшце, вельмі істотнае значэньне для ідэнтыфікацыі паэта меў знойдзены яго верш, адзіны падпісаны “Янук Д–іч” (Шкада разьбітых мар // Наша Ніва. 1913. 21 лістапада).

Далейшыя пошукі завялі нас у верасьні 1979 г. у вёску Меляшкі каля Гарадка да пляменьніцы Арла — Ганны Марцінчык, у якой быў знойдзены здымак жонкі Арла, адрасаваны Івану Дарашкевічу. На пытаньне, хто такі Дарашкевіч, бабуля адказала: “Калега Арла, разам вучыліся ў Ялоўцы, абодва настаўнічалі і пісалі вершы ў «Нашу Ніву»”. А падрабязнасьці, біяграфія, здымкі? “Ды навошта мне аб гэтым гаварыць, — кажа Ганна Марцінчык, — вось тут, па–суседзку, жыве родная сястра Дарашкевіча, Люба Лавіцкая, яна раскажа больш…”

Нам выразна шанцавала. Ад Любы Лавіцкай і яе мужа была атрымана добрая жменя зьвестак пра паэта, яго вучобу і настаўніцкую працу, а таксама адрас яго другой сястры Надзеі ў Познані і яе сына палкоўніка Я. Дарашкевіча, які неадкладна прыслаў рэпрадукаваны тут [маецца на ўвазе першапублікацыя. — *Рэд.*] здымак. Хутка знайшоўся адрас дачкі паэта — Людмілы Іванаўны Дарашкевіч, кандыдата геаграфічных навук, дацэнта, якая пражывае ў Ленінградзе.

Іх інфармацыі дазволілі ўваскрэсіць постаць Янука Д. — другога пасьля Арла нашаніўскага песьняра з нашай Беласточчыны.

* * *

Іван Дарашкевіч — сын Канстанціна і Анастасіі, нарадзіўся ў 1890 г. у вёсцы Ме-

[1] Саламевіч Янка (нар. 1938) — беларускі паэт і літаратуразнаўца. — *А.П.*

[2] Ліс Арсень (нар. 1934) — беларускі літаратуразнаўца і фальклярыст.

[3] Дзень Паэзіі. Мінск, 1980. С. 223. — *А.П.*

ляшкі тагачаснай Гарадзенскай губэрні. Бацькі Івана — мясцовыя сяляне — мелі да першай сусьветнай вайны 8 гектараў зямлі і немалую чародку дзяцей: Івана, Юльяна, Міколу, Ганну, Марыю, Надзею і Любу.

Пачатковую адукацыю Іван атрымаў у роднай вёсцы і ў суседнім Гарадку, дзе пасябраваў з аднагодкам Сьцяпанам Пятэльскім — будучым паэтам М. Арлом. Пасьля гэтай школы абодва працягвалі вучобу ў царкоўна–настаўніцкай сэмінарыі ў Ялоўцы, якую закончылі ў 1909 г. У наступныя гады Іван Дарашкевіч настаўнічаў у Семяноўцы і ў Кулях пад Галынкай. Тут у 1913 г. ажаніўся з 18–гадовай Кацярынай Маркаўнай Буцько. Неўзабаве, відавочна, восеньню 1913 г., пераехаў у Літву, дзе яшчэ адзін год настаўнічаў у вёсцы Даўкшы каля Панявежысу.

Істотны ўплыў на творчы працэс Дарашкевіча аказала "Наша Ніва", а таксама Сьцяпан Пятэльскі, які натхняў сябра да дзейнасьці на ніве роднай культуры. Працуючы настаўнікам у вёсках Гарадзеншчыны, Дарашкевіч займаўся зьбіраньнем беларускіх народных песень, запісы якіх з нотамі дасылаў Антону Грыневічу ў Пецярбург[4]. Восеньню 1910 г. пачалося яго супрацоўніцтва з "Нашай Нівай", якое працягвалася чатыры гады — да пачатку першай сусьветнай вайны.

За гэты час газэта надрукавала шэраг вершаў Янука Д., у якіх на першы плян высоўваецца сацыяльная тэматыка беларускай вёскі ("Доля", "Стогн", "З родных абразкоў", "Ганя" і іншыя). Спрабаваў паэт сваіх сілаў і ў лірыцы каханьня, а таксама ў рэфлексійнай паэзіі ("Псальм CXXXVI", "Шкада разьбітых мар"). Малапасьпяховымі былі затое яго спробы ў галіне прозы. 16 сьнежня 1910 г. рэдакцыя "НН" пісала: "Януку Д. Дзякуем за «Першыя крокі жыцьця». Скарыстаем. Просім не забываць надалей". Аднак гэтае апавяданьне доўгі час не паяўлялася ў друку, і ў красавіку 1912 г. рэдакцыя прапанавала яго паправіць. Здаецца, што з гэтай прапановы паэт не скарыстаў.

Восеньню 1914 г. Іван Дарашкевіч быў мабілізаваны ў царскую армію і накіраваны ў школу прапаршчыкаў у Араньенбаўме пад Пецярбургам (цяпер горад Ламаносаў). Паводле сьведчаньня дачкі, Людмілы Іванаўны, Дарашкевіч з энтузіязмам успрыняў рэвалюцыю і служыў у Чырвонай Арміі зь першых дзён яе арганізацыі да апошняга дня свайго жыцьця[5].

Аднак, відаць, у яго ваеннай службе быў перапынак. Як паведаміла сястра паэта, Люба Лавіцкая, непасрэдна пасьля вайны ён вярнуўся разам зь сям'ёй (якая была ўва ўцякацтве) у Меляшкі. Тут знайшоў разбураную гаспадарку і мізэрныя жыцьцёвыя пэрспэктывы. І толькі праз два–тры гады выехаў зь сям'ёй (церазь зялёную граніцу) у Савецкі Саюз. Быў кадравым ваенным.

Як піша Людміла Іванаўна, Дарашкевіч большую частку жыцьця пражыў у Варонежы. У вольны час пісаў вершы, але ўжо толькі для сябе перакладаў Міцкевіча[6]. Быў зацятым паляўнічым і рыбаловам, цікавіўся радыётэхнікай, займаўся разьбой. З Варонежу пайшоў на фронт. Загінуў у змаганьні зь немцамі ў ноч з 23 на 24 лютага 1943 г. пад вёскай Фецішчава Балхоўскага раёну Арлоўскай вобласьці.

Дом, у якім жылі Дарашкевічы ў Варонежы, быў разбураны ў часе ваенных дзеяньняў. Загінулі сямейныя памяткі і ўвесь архіў паэта. "Адзінае, што ў мяне засталося, — піша Людміла Іванаўна, — гэта словы песьні, якую тата напісаў на фронце пасьля пасьпяховай ваеннай апэрацыі. Пасылаю іх вам". Гэту песьню "Вперёд, волжане", напісаную 7 сьнежня 1942 г., прапануем увазе чытачоў разам зь некаторымі яго вершамі нашаніўскае пары.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1981. 2 жніўня.

---

[4] Тамсама.

[5] Ліст Людмілы Дарашкевіч да аўтара ад 27.01.1980 г.

[6] Цяжка сказаць, ці ваенны рэглямэнт ці іншыя прычыны не дазволілі Дарашкевічу публікаваць яго вершы ў выдавецтвах БССР міжваеннага часу. Так ці інакш ён быў тады невядомы ў беларускай літаратуры. Відавочна, з гэтай прычыны А. Ліс выказаў памылковае сьцьвярджэньне, што Дарашкевіч загінуў "на крывавых палях першай сусьветнай вайны" (гл. цытаваны: Дзень Паэзіі. С. 224).

# Адзін народ, адна дзяржава

Сёньня, 17 верасьня, мінае роўна паўстагодзьдзя з таго часу, калі Чырвоная Армія перайшла ўсходнюю граніцу міжваеннай польскай дзяржавы і неўзабаве выйшла на лінію, устаноўленую міждзяржаўнай нямецка–савецкай дамовай, т.зв. пактам Рыбэнтропа–Молатава. Вялікія абшары тагачаснай польскай дзяржавы былі далучаны да СССР, у тым ліку ўсе заходнебеларускія землі.

З нагоды 50–годзьдзя заключэньня нямецка–савецкага пакту прэса, радыё і тэлевізія, а таксама парлямэнт ПНР асудзілі яго як ненармальны і злачынны. З другога боку беларускія сродкі масавай інфармацыі падкрэсьліваюць іншы аспэкт дамовы, а менавіта, што ў выніку адбылося ўзьяднаньне ўсіх беларускіх зямель у адной нацыянальнай рэспубліцы. А гэта значыць, што пакт Рыбэнтропа–Молатава выправіў гістарычную несправядлівасьць, якую стварыў Рыскі трактат. Прыгадаем, што гэты ганебны трактат, падпісаны ў сакавіку 1921 г. прадстаўнікамі Польшчы і савецкай Расеі, разарваў жывое цела Беларусі на дзьве часткі. Такі ненармальны стан працягваўся 19 гадоў, да верасьня 1939 г.

У гэтай сувязі сумленная ацэнка падзеяў 1939 г. немагчымая без уліку канкрэтных гістарычных абумоўленьняў. Падчас першай сусьветнай вайны, калі наш народ будзіўся да дзяржаўнага жыцьця, беларускія палітыкі імкнуліся разыграць розныя карты: нямецкую, расейскую і польскую. Аднак у кожным выпадку (БНР, фэдэрацыя з Расеяй ці Польшчай) яны імкнуліся захаваць цэласнасьць нацыі як сваё сьвятое, прыроднае права, якое, дарэчы, тэарэтычна не адмаўлялася ні Леніным, ні Пілсудзкім. Аднак у Рызе перамаглі звычайныя вялікадзяржаўныя інтарэсы абодвух суседзяў, якія выявіліся ў злачыннай канцэпцыі падзелу беларускай зямлі.

Варта заўважыць, што тых палітыкаў, якія імкнуцца да падзелу сваёй бацькаўшчыны ці ўхвальваюць яго, называюць здраднікамі. На нашае шчасьце і гонар, пад Рыскім трактатам не было подпісу прадстаўніка Беларусі. Як жа ў гэтых адносінах было зь беларускімі дзеячамі міжваеннай пары ў абодвух частках падзеленай бацькаўшчыны?

Вось жа, як піша Віктар Мароз у артыкуле “Пакты, трактаты і беларусы”, апублікаваным нядаўна ў нефармальным часопісе “Кантакт” (1989. № 2),

> у міжваенным пэрыядзе не было ніводнай беларускай партыі, якая ў сваёй праграме не дамагалася б злучэньня ўсёй беларускай зямлі. У гэтай справе партыі розьніліся паміж сабою толькі мэтадамі, якімі хацелі дасягнуць гэтую мэту.

Такім было становішча ня толькі камуністаў і пракамуністычных арганізацыяў, але і “Цэнтрасаюзу” Астроўскага—Луцкевіча[1] і Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі — палітычных груповак, якія востра крытыкаваліся ў БССР як нацыяналістычныя, сацыял–фашысцкія і г.д. Аб гэтым, між іншым, сьведчыць артыкул “Славянафільства і беларускі народ”, апублікаваны 19.01.1940 г. у віленскай хадэцкай “Krynicy”, у якім адлюстроўвалася вызваленчая місія Чырвонай Арміі і працэс узьяднаньня ўсіх беларускіх зямель. Не выпадкова гэтую падзею прымалі нават тыя беларускія дзеячы, якія не пагаджаліся з

[1] “Цэнтрасаюз” (Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацыяў) — беларуская грамадзка–палітычная арганізацыя правацэнтрысцкага кірунку ў Заходняй Беларусі ў 1930—1934 г. Яе лідэры (Антон Луцкевіч, Радаслаў Астроўскі, Фабіян Акінчыц і Янка Станкевіч) лічылі неабходным ісьці на пэўныя кампрамісы з польскім урадам дзеля забесьпячэньня магчымасьці правядзеньня культурна–асьветнай дзейнасьці. Ідэалёгія “Цэнтрасаюзу” не здабыла вялікай папулярнасьці сярод заходнебеларускага грамадзтва. Арганізацыя распалася з–за ўнутраных супярэчнасьцяў. — *А.П.*

савецкай сыстэмай. Аб гэтым вырашаў лепшы ці горшы, але агульны лёс нацыі, якая пачынала новы этап свайго разьвіцьця ў адной дзяржаве.

Прыхільна ўспрыняла савецкую ўладу таксама пераважная частка сялянства — асноўная маса насельніцтва Заходняй Беларусі. Аб гэтым сьведчаць ня толькі савецкія публікацыі, якія могуць быць западозраны ў тэндэнцыйнасьці, але і выказваньні нямецкіх і амэрыканскіх дасьледчыкаў, а таксама польскіх аўтараў у шматлікіх пазацэнзурных выданьнях, якія цяжка было б лічыць пераказчыкамі прасавецкіх сымпатыяў. У гэтых адносінах варта працытаваць нашага беластоцкага пісьменьніка Васіля Петручука:

> Хачу выразна падкрэсьліць, што я быў вызвалены (без двукосься) Чырвонай Арміяй. Я ў 1939 годзе ўпершыню пайшоў у школу, і то ў савецкую школу, якой мы, беларусы, вельмі чакалі <...>. Цяпер гавораць розна, і было па–рознаму, але мы чакалі прыходу савецкай улады, як дзіця чакае прыходу маці з поля (Ніва. 1989. 5 лютага).

Аднак сёньня, праз паўстагодзьдзя, зьявіліся аўтары, якія спрабуюць даказваць, што такія ацэнкі ня што іншае як “сталінская прапаганда” (гл.: Grün Jacek. Docent sfrustrowany // Kurier Podlaski. 8—10.09.1989.). Зноў іншыя, як, напрыклад, С. Таляронак[2] у менскім “ЛіМе” ад 25 жніўня, памяншаюць значэньне дзяржаўнага ўзьяднаньня беларускай нацыі і падкрэсьліваюць адмоўныя, нярэдка трагічныя, падзеі, якія адбыліся пасьля ўзьяднаньня, такія, як расправа зь дзеячамі заходнебеларускага вызваленчага руху, масавыя рэпрэсіі і г.д.

Ня будзем аспрэчваць выказваньні Таляронка, аднак заўважым, што як у кожнай справе, так і ў гэтым выпадку неабходны дакладны аналіз і выважаны рахунак стратаў і прыбыткаў. У прыватнасьці, можна задумацца, *ці ў выніку ўсіх міжваенных і пасьляваенных выпрабаваньняў існавала б сёньня беларуская нацыя, калі б не адбылося яе ўзьяднаньне, калі б Заходняя Беларусь працягвала заставацца ў межах Польшчы?*

У адрозьненьне ад беларускага, польскі пункт гледжаньня на падзеі 1939 г. абумоўлены перш за ўсё стратай каляніяльных земляў на ўсходзе. У гэтых адносінах Рыскі трактат быў для Беларусі ня менш амаральным і злачынным, чым для Польшчы быў пакт Рыбэнтропа–Молатава.

*Друкуецца паводле:* Ніва. 1989. 17 верасьня.

---

[2] Маецца на ўвазе артыкул Сяргея Таляронка “Жнівень і верасень 1939 года: погляд праз паўстагоддзя”, надрукаваны 25 жніўня 1989 г. — *А.П.*

# Віленшчына — вяртаньне да традыцыі

Вільня — гістарычная сталіца літоўска–беларускай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага. Тут сфармавалася старажытнабеларуская літаратурная мова, выдаваліся кнігі Скарыны, Літоўскі статут, хронікі, разнастайная рэлігійная літаратура. Тут дзейнічаў Каліноўскі, жылі і працавалі дзяячы беларускага адраджэньня. Пасьля ганебнага падзелу Беларусі ў Рызе (1920 г.)[1] Вільня была цэнтрам грамадзка–палітычнага жыцьця Заходняй Беларусі. Немалое значэньне Вільня захоўвала і ў часе апошняй нямецкай акупацыі: аднавіў сваю дзейнасьць закрыты польскімі ўладамі Беларускі нацыянальны камітэт, працавала беларуская гімназія і настаўніцкая сэмінарыя, дзейнічаў музэй імя Івана Луцкевіча, адбываліся праваслаўныя і каталіцкія багаслужбы, даклады і канцэрты, выдаваўся тыднёвік "Беларускі Голас".

Пасьля вайны і аднаўленьня савецкай улады ў Літве ўсё беларускае грамадзкае жыцьцё на Віленшчыне было ліквідавана, а многія дзяячы зьнішчаныя ў савецкіх турмах і лягерох. Гэтыя дзеяньні, як правіла, зыходзілі з прынцыпаў сталінскай нацыянальнай палітыкі, згодна зь якой у саюзных рэспубліках дапускаліся да грамадзкага ўжытку толькі нацыянальная і расейская мовы. Культурныя і моўныя патрэбы нацыянальных меншасьцяў ігнараваліся.

Аднак у Літве ў гэтых адносінах стварылася спэцыфічнае становішча. Паводле распаўсюджаных тут чутак, на просьбу Баляслава Берута на пачатку 50–х гадоў Масква "рэкамэндавала" ўладам рэспублікі ўлічыць патрэбы польскага насельніцтва. Перад урадам Літоўскай ССР паўстала пытаньне, якіх жыхароў рэспублікі лічыць палякамі? Як вядома, на Віленшчыне жыло аўтахтоннае славянскае ці славянізаванае насельніцтва, пераважна каталіцкага веравызнаньня, якое найчасьцей, асабліва на вёсках, карысталася беларускай мовай, аднак лічыла сябе часткова "тутэйшымі", часткова беларусамі, або, атаясамліваючы "польскую веру" з нацыянальнасьцю, палякамі.

Гэтае складанае пытаньне, як правіла, вырашалася не насельніцтвам, але тагачаснымі ўладамі ЛітССР, якія лічылі, што скіраваньне "тутэйшых" у польскае рэчышча прынясе менш шкоды інтарэсам Літвы, чым прывіваньне ім беларускай нацыянальнай сьвядомасьці. Думалася прыкладна так: калі ўва ўсходняй Літве зьявіцца сьвядомае беларускае насельніцтва, то ў будучыні можа ўзьнікнуць пагроза карэктуры граніцы зь Беларускай ССР, тады як польскім яно само па сабе ня стане, у сувязі з чым ня будуць небясьпечнымі ўплывы і прэтэнзіі Польшчы, ад якой, дарэчы, "ахоўвала" Літву ня толькі шчыльная савецкая граніца, але і паслушны Маскве сатэліцкі рэжым у Варшаве. У выніку, на пачатку 50–х гадоў уладамі было адкрыта звыш 300 польскіх школаў, нават у такіх вёсках, у якіх падчас нямецкай акупацыі былі беларускія школы. Адначасова з 1953 г. быў арганізаваны выпуск рэспубліканскіх і раённых польскамоўных газэт і часопісаў, радыёперадачы, гурткі мастацкай самадзейнасьці і г.д.

Усё гэта спрыяла палянізацыі "тутэйшых", аднак яе вынікі былі вельмі сьціплыя, што наогул пацьвярджала прагнозы ўладаў Літоўскай рэспублікі. З году ў год зьмяншалася колькасьць польскіх школаў, якія ў большасьці ператварыліся ў дзьвюхмоўныя — польска–расейскія. На такі працэс уплываў абмежаваны грамадзкі прэстыж польскай мовы, які няшмат адрозьніваўся ад прэстыжу, напрыклад, беларускай мовы ў БССР ці на Беласточчыне.

---

[1] Маецца на ўвазе заключэньне прэлімінарнай мірнай дамовы паміж Польшчай і савецкай Расеяй 12 кастрычніка 1920 г. у Рызе, якой фактычна перадвызначаўся будучы падзел беларускіх этнічных тэрыторыяў. — *А.П.*

У апошні час польскае пытаньне ў Літве стала прадметам асаблівай палітычнай гульні ў канктэксьце пашырэньня літоўскага руху нацыянальнага адраджэньня, згодна з адвечным прынцыпам: “Вораг майго ворага — маім саюзьнікам”. У выніку стварылася парадаксальная сытуацыя: у Польшчы літоўскіх палякаў падтрымоўвае антыкамуністычная апазыцыя, а ў Літве — КГБ і расейскія камуністы, якія спадзяюцца выкарыстаць польскі рух як пажаданую процівагу нацыянальным імкненьням літоўцаў[2]. Такім чынам на Віленшчыне хутка аднавіўся дзікі польска–літоўскі канфлікт, які пераканаў літоўскія ўлады і грамадзкіх дзяячоў, што стаўка на палянізацыю “тутэйшых” была памылковай.

У такіх складаных умовах летам 1988 г. на літоўскай палітычнай сцэне зьявіўся беларускі клюб “Сябрына”, кіраўнікі якога пачалі рыхтаваць грунт для адраджэньня беларускага грамадзка–культурнага жыцьця ў гэтай рэспубліцы. 15 сьнежня 1988 г. дзеячы “Сябрыны” спаткаліся з прадстаўнікамі літоўскага таварыства “Вільнія”[3], якое дзейнічае пры рэспубліканскім Фондзе культуры. У выніку гэтага спатканьня абедзьве арганізацыі апрацавалі і апублікавалі ў прэсе супольную дэклярацыю “Адродзім беларускую культуру”, у якой былі сфармуляваныя наступныя патрэбы беларускага насельніцтва ў Літве:

— арганізацыя беларускіх школаў і дашкольных установаў;

— доступ да сродкаў масавай інфармацыі (беларускі прэсавы орган, радыёперадачы, тэлевізійныя праграмы);

— стварэньне Таварыства беларускай культуры пры літоўскім Фондзе культуры (Вечерние новости[4]. 1989. 12 января).

Неўзабаве, 4 лютага 1989 г., у Вільні адбыўся зьезд Таварыства беларускай культуры (ТБК). Галоўныя мэты ТБК — актывізацыя нацыянальнага жыцьця літоўскіх беларусаў, папулярызацыя і разьвіцьцё беларускай мовы. У плянах работы ТБК на бліжэйшую будучыню — стварэньне беларускай бібліятэкі–чытальні, лекторыю па пытаньнях беларускай культуры, а ў пэрспэктыве — адраджэньне Беларускага музэю, школьніцтва і катэдры ў Віленскім унівэрсытэце. Была атрымана прынцыповая згода літоўскіх уладаў на выпуск прэсавага органа ТБК. Таварыства спадзяецца знайсьці сталы прытулак у старажытных мурах былога базылянскага манастыра, які быў некалі адным з цэнтраў беларускай культуры ў Вільні.

Ці магчымае адраджэньне беларускага грамадзка–культурнага жыцьця ўва Ўсходняй Літве? Традыцыі традыцыямі, аднак 45 пасьляваенных “мёртвых” гадоў зрабілі сваё, і сёньня інтэлектуальны патэнцыял ТБК даволі скромны. Праўда, многія важныя праблемы, такія, як аднаўленьне музэю, бібліятэкі ці ўнівэрсытэцкай катэдры, выпуск часопіса і т.п., могуць быць вырашаны з дапамогай уладаў рэспублікі, аднак гэтага яшчэ мала для стварэньня аўтэнтычнага грамадзкага руху ў беларускамоўных вёсках Віленшчыны, на чым Таварыству таксама залежыць. Тым часам насельніцтва гэтых вёсак “ахоўваюць” ад беларускай сьвядомасьці польскія ксяндзы і польскія дзяячы. Ці хопіць актывістам ТБК жаданьня і сілаў, каб пераадолець гэтыя цяжкасьці?

У гэтых адносінах многае залежыць ад зацікаўленьня літоўскіх уладаў пэрспэктывай беларускага руху. Пакуль што гэтаму зацікаўленьню спрыяе востры міжнацыяналь-

---

[2] Маецца на ўвазе ідэя польскай аўтаноміі на Віленшчыне, з дапамогай якой савецкае кіраўніцтва імкнулася перашкодзіць выхаду Літвы з складу СССР. Вялікімі прыхільнікамі гэтай ідэі былі, у прыватнасьці, старшыня Савету нацыянальнасьцяў Вярхоўнага Савету СССР Рафік Нішанаў і сакратар ЦК КПСС Алег Шэйнін. — *А.П.*

[3] Літоўскае таварыства “Вільнія” было заснавана 22 сакавіка 1988 г., пасьля чаго стварала свае аддзелы, групы і аналітычныя цэнтры. Супрацоўнічала з “Саюдзісам”. Актыўна змагалася з польскімі ўплывамі ў Вільні, дабівалася прызнаньня палякамі факту акупацыі імі гэтага гораду. — *А.П.*

[4] “Вечерние новости” — расейскамоўная газэта, якая выходзіла ў Вільні ў 1957—1999 г.

ны канфлікт на Віленшчыне, у сувязі з чым літоўскія дзеячы лічаць, што ТБК прыцягне частку нацыянальна несьвядомых “тутэйшых” і такім чынам створыць пэўную процівагу польскаму нацыяналізму. Адной з праяваў такой тэндэнцыі быў артыкул Андрэя Сьцяпанава, апублікаваны ў студзені 1989 г. у віленскіх газэтах[5]. Істотнае значэньне ў гэтых адносінах мае таксама прыхільная пазыцыя літоўскай Каталіцкай царквы да духоўных патрэбаў беларускамоўных каталікоў.

З другога боку, польскія дзеячы ў Літве ахвотна бачылі б беларусаў у супрацьлітоўскім фронце, і так менавіта можна зразумець цёплую карэспандэнцыю пра заснаваньне ТБК, зьмешчаную 10 лютага ў газэце “Czerwony Sztandar”[6]. Усё ж варта заўважыць, што гэтая газэта, якая распаўсюджваецца і ў беларускіх асяродзьдзях, прапагандуе пэсымізм і няверу ў адраджэньне беларускай мовы і культуры ў БССР і такім чынам садзейнічае ўмацаваньню сярод насельніцтва пачуцьця польскага патэрналізму, маўляў, для беларусаў–каталікоў адзіны ратунак у Польшчы, яе мове і культуры. Такія “ідэі” дзейсна падтрымоўваюць польскія публіцысты ў ПНР, асабліва каталіцкія, якія ў апошнім часе дайшлі да высновы, што “простая” мова падвіленскіх беларусаў — гэта ня што іншае як абеларушчаная старадаўняя польская мова.

Згаданыя абумоўленьні плюс уласная слабасьць і недасьведчанасьць пакуль што не дазволілі кіраўніцтву ТБК выпрацаваць адназначную палітычную лінію. Некаторыя яго сябры арыентуюцца на стратэгічнае супрацоўніцтва зь літоўцамі, а іншыя ўсё яшчэ чакаюць нейкай міласьціны ад палякаў. Дайшло ўжо нават да таго, што некаторыя члены Рады ТБК публічна адмежаваліся ад члена той жа Рады, які падтрымаў пратэст літоўскіх грамадзкіх арганізацыяў, накіраваны на спыненьне процілітоўскіх выступленьняў газэты “Czerwony Sztandar” (Czerwony Sztandar. 13.04.1989). Тым часам пасьля майскіх перамоў “Саюдзісу”[7] з прадстаўнікамі апазыцыі ў Варшаве літоўскія палякі пачалі тактычна пераарыентоўвацца — адыходзіць ад процілітоўскага “Единства”[8] і, пакуль што нясьмела, шукаць прымірэньня з “Саюдзісам”. А нашыя дзеячы апынуліся, далікатна кажучы, у нецікавым становішчы. Пажадаем ім хоць разумных высноваў.

*Друкуецца паводле:* Кантакт. 1989. № 2.

---

[5] Маецца на ўвазе артыкул Андрэя Сьцяпанава пад назвай “Штурм на «Тутэйшых»”, апублікаваны 23 студзеня 1989 г. у “Вечерних новостях”. Публікаваўся як адказ на апублікаваны перад гэтым у той жа газэце ліст, аўтар якога абураўся распараджэньнем намесьніка старшыні літоўскага Дзяржкамітэту па статыстыцы З. Купцявічуса ўносіць на ўсесаюзным перапісе насельніцтва ў перапісныя анкеты назву нацыянальнасьці “тутэйшы”, а мовы — “простая”. Адказваючы свайму апанэнту і становячыся на бок З. Купцявічуса, А. Сьцяпанаў (які назваўся беларусам) казаў пра штучнасьць т.зв. “польскасьці” на Віленшчыне, сьцьвярджаючы:

> Гісторыя ня ведае ніякіх перасяленьняў польскіх сялян на землі Літвы і Беларусі. Сюды прыяжджалі высокаадукаваныя езуіты эмісары, чыноўнікі і іншыя прадстаўнікі інтэлігенцыі, і яны ніколі не мянялі назвы “паляк” на назву “тутэйшы”. На Віленшчыне, як і на іншых землях Беларусі і Літвы, не было палякаў–аўтахтонаў.

[6] “Czerwony Sztandar” (“Чырвоны сьцяг”) — штодзённая польскамоўная газэта, якая выходзіла ў Вільні з 1953 г. у якасьці афіцыйнага органа ЦК камуністычнай партыі Літвы (КПЛ). У 1992 г. зьмяніла назву на “Kurier Wileński” і зьяўляецца органам Саюзу палякаў у Літве. — *А.П.*

[7] “Саюдзіс” (ад літ. Sajūdis (“Рух”)) — літоўскі грамадзка–палітычны рух, які быў створаны ў чэрвені 1988 г. і ўзначаліў у 1988—1990 г. працэс аднаўленьня незалежнасьці Літвы. Яго старшынём быў Вітаўтас Ландсбергіс. — *А.П.*

[8] Арганізацыя “Единство” была асноўнай арганізацыяй, вакол якой у 1989—1991 г. гуртаваліся праціўнікі выхаду Літвы з складу СССР. Яе лідэрам быў Валер Іваноў. — *А.П.*

# Непакорная Вера

Набліжаецца дзясятая гадавіна сьмерці Веры Карчэўскай (дзявочае прозьвішча Матэйчук, зь першага сужонства — Маслоўская) — адной з пачынальнікаў беларускага школьніцтва на Беласточчыне, незалежнай і рэвалюцыйнай дзяячкі, гераіні палітычнага працэсу 45–ці беларусаў у Беластоку (1923 г.), паэтэсы, якая выступала пад псэўданімамі “Мурашка”, “Вера Мурашка”, “Беларуская Мурашка”. З гэтай нагоды і для ўшанаваньня памяці нашай выдатнай зямлячкі прапануецца ўвазе чытачоў яе кароткі біяграфічны нарыс.

Бацька Веры, Ігнат Матэйчук, паходзіў зь вёскі Агароднічкі Дайлідзкай гміны, а маці, Ганна Вішнеўская, — з Супрасьлі. Гісторыя матчынага прозьвішча незвычайная: дзед Веры, усім вядомы як Мікола Вішнеўскі, у сапраўднасьці называўся Міхал Даманоўскі, аб чым толькі пры сьмерці сказаў сваёй сям’і. У маладосьці ён уцёк ад прыгоннага пана, пасяліўся ў Супрасьлі і доўга жыў тут пад фальшывым прозьвішчам. Памёр на пачатку нашага стагодзьдзя ў 96–гадовым узросьце, пакідаючы ў спадчыну ўнучцы Веры свае непакорныя гены.

Вера Матэйчук нарадзілася 24 сакавіка 1896 г. у Супрасьлі і толькі на другім–трэцім годзе жыцьця пераехала ў Агароднічкі, аднак, паводле мэтрыкі, месцам яе нараджэньня лічыцца ня Супрасьля, а вёска Агароднічкі, відаць, з той прычыны, што яна была месцам пастаяннага пражываньня яе бацькоў. Тут яны мелі свае чатыры дзесяціны і дзясятак дзяцей. У такіх умовах Ігнат Матэйчук быў вымушаны шукаць дадатковых заработкаў, між іншым выконваў розныя будаўнічыя замовы Супрасьлеўскага манастыра.

Пачатковую адукацыю Вера атрымала ў Агароднічках і Супрасьлеўскай школе для дзяўчат. Паводле вобразнага апісаньня Міколы Гайдука, Вера вучылася дасканала. Настаўнікі раілі ёй паступаць вучыцца далей. Але яна даведалася, што на гэта бацька павінен прадаць карову... І замест сесьці за школьную лаўку давялося ёй пайсьці “лапаць ніці” ў фабрыцы Цытрона. Хутка прывучылася фаху і пачала працаваць. Аднойчы жанчыны–работніцы забаставалі, патрабавалі лепшых умоў працы ды вышэйшых заробкаў. Вера ня толькі прыняла ўдзел у забастоўцы, але нават стала на яе чале. Аднак знайшліся штрэйкбрэхеры, забастоўка правалілася, і Цытрон выгнаў Веру з работы... Пасьля ёй удалося пастуліць пакаёўкай да сям’і Ёгана Марушэўскага — немца, упраўніка маёмасьцямі супрасьлеўскага фабрыканта Бухгольца. Хоць працы было многа і плацілі марна, але Вера была шчасьлівая: яна паступіла экстэрнам у Сьвіслацкую настаўніцкую сэмінарыю.

Днямі працавала, начамі вучылася, а калі наступаў час экзамэнацыйнай сэсіі, Ігнат Матэйчук запрагаў коніка і вёз дачушку на Каралёў Мост, Гарадок, Ялоўку ў Сьвіслач. Два дні трэсьліся на калдобінах, перакусвалі абы–чым. І было дзеля чаго: Вера заўсёды пасьпяхова здавала экзамэны. Але калі ў 1914 г. выпеставаны ў марах дыплём настаўніцы быў ужо на руках, выбухла сусьветная вайна; дастаць працу ў школе не ўдалося, прыйшлося сядзець без работы[1].

Пасьля адступленьня расейскіх войск, у канцы 1915 г. нямецкія акупацыйныя ўлады абвясьцілі новыя правілы дзейнасьці школаў на захопленых землях Расейскай імпэрыі. У прыватнасьці, пастанаўлялася, што школьныя заняткі павінны адбывацца на роднай мове насельніцтва. Так паўстала магчымасьць арганізацыі беларускіх школаў. Прыкладна праз год — 16 кастрычніка 1916 г. — была адкрыта ў Сьвіслачы першая

---

[1] Гайдук М. З горда ўзнятым чалом // Ніва. 1978. 30 ліпеня.

беларуская настаўніцкая сэмінарыя. Кіраваў ёю дырэктар Бэндзеха з Сылезіі, а беларускую мову выкладаў Баляслаў Пачобка — аўтар выдадзенай у пачатку 1916 г. першай “Граматыкі беларускай мовы”[2] .

Нягледзячы на розныя недахопы пэдагагічнага характару і цяжкасьці ваеннага часу, Сьвіслацкая сэмінарыя адыграла істотную ролю ў разьвіцьці беларускага школьніцтва на Беласточчыне і Гарадзеншчыне. На працягу сваёй двухгадовай дзейнасьці (да 5 лістапада 1918 г.) 144 настаўнікі прайшлі тут некалькімесячную падрыхтоўку, сярод якіх, акрамя Веры Матэйчук, было шмат моладзі зь Беласточчыны, між іншым, Вера Рожка — настаўніца зь вёскі Студзянкі, Вольга Скаўронская зь Беластоку, Вольга Гофман зь Бельску, Аляксандар і Канстанцін Валкавыцкія з–пад Нараўкі.

Восеньню 1917 г. усе яны атрымалі накіраваньні да працы ў беларускія народныя школы, якіх тады на Беласточчыне адкрылася некалькі дзясяткаў. Паколькі раён Беластоку быў лепш забясьпечаны настаўнікамі, Веру Матэйчук накіравалі ў вёску Грабавец Арлянскай гміны, дзе яна арганізавала беларускую школу. Працавала там два гады, пакідаючы ў памяці вучняў найлепшыя ўспаміны. Адзін зь іх, Хілімон Барташук, не забываў сваю настаўніцу да яе позьняй старасьці, наведваў яе, пісаў лісты.

Падзеяй, якая ў значнай меры абумовіла далейшы лёс Веры, быў яе ўдзел у настаўніцкім курсе, які адбываўся ў жніўні 1919 г. у Вільні. Курсам кіраваў лідэр тагачаснай Народнай партыі Янка Станкевіч, які выкладаў беларускую мову і ўжо тады “славіўся” сваім наватарствам у галіне мовазнаўства. Першыя крокі ў галіне гісторыі беларускай літаратуры ставіў тут Максім Гарэцкі, гісторыю выкладаў Вацлаў Ластоўскі — вядомы дзяяч Партыі беларускіх сацыялістаў–рэвалюцыянэраў, пазьнейшы старшыня эміграцкага ўраду БНР у Коўне і сакратар Беларускай акадэміі навук у Менску.

На памяткавай фатаграме, якая беражліва захоўвалася Верай да яе апошніх дзён, прадстаўлены здымкі з прозьвішчамі 109 курсантаў — настаўнікаў з розных мясцовасьцяў Беларусі, сярод іх Веры Матэйчук, яе сястры Жэні і спомненай беластачанкі Вольгі Скаўронскай. Паводле сьведчаньня Веры, курс быў ня толькі месцам павышэньня пэдагагічных кваліфікацыяў, але таксама своеасаблівай школай грамадзкіх дзяячоў. Значную прапагандысцкую дзейнасьць праяўлялі тут эсэры (Ластоўскі, Дуж–Душэўскі і іншыя), народнікі, хадэкі. Усе гэтыя партыі імкнуліся пашырыць свае ўплывы сярод настаўнікаў, з чым спалучалі спадзяваньні на пашырэньне сваіх уплываў сярод насельніцтва.

Веру пацягнуў радыкалізм эсэраўскай ідэалёгіі. Пасьля заканчэньня віленскага курсу на працягу 1919/20 школьнага году настаўнічала на Меншчыне, была школьным інструктарам на Барысаўскі і Дзісенскі паветы. У Менску пазнаёмілася з многімі тагачаснымі дзяячамі, між іншым, Вацлавам Іваноўскім, Палутай Бадуновай і Леапольдам Родзевічам. Сваім ідэйным настаўнікам Вера лічыла Палуту Бадунову, пад уплывам якой напісала свой першы верш “Ідзі!”, надрукаваны 27 чэрвеня 1920 г. у менскай газэце “Беларусь”[3].

У гэты час (12 лютага 1920 г.) Вера выйшла замуж за Ўладзіслава Маслоўскага —

---

[2] “Граматыка...” Б. Пачобкі і ў той час, і пасьля сустракалася з нэгатыўнай ацэнкай беларускай грамадзкасьці. У зьмешчанай у траўні 1918 г. адмысловай “Справаздачы камісіі Беларускага навуковага таварыства ў Вільні” адзначалася, што “праз усю кніжку чырвонаю ніткаю праходзіць тэндэнцыя да пальшчэньня беларускае мовы”. Пазьней жа вядомы беларускі мовазнаўца Я. Лёсік пісаў:

> Гэтая спроба напісаць граматыку беларускае мовы ня мела ніякага значэньня. Аўтар яе ня ведаў ні беларускае мовы, ні граматыкі наогул. Ён... прыступіў да складаньня граматыкі зусім не падгатаваны да гэтае работы, без належнае асьветы, без граматычных ведаў. Яго работа адразу–ж сустрэла справядлівую ацэнку ды так і загінула, нікому невядомая. — *А.П.*

[3] Штодзённая палітычна–эканамічная і літаратурная газэта “Беларусь” выдавалася ў акупаваным палякамі Менску з кастрычніка 1919 г. па ліпень 1920 г. У 1919 г. рэдактарам–выдаўцом газэты была Ядвіга Луцэвіч, у 1920 г. — Язэп Лёсік. — *А.П.*

беларуса зь Віленшчыны, капітана польскай арміі, які неўзабаве загінуў на фронце.

У канцы 1920 г. Вера Маслоўская вяртаецца ў родныя Агароднічкі з заданьнем стварыць на тэрыторыі Беластоцкага, Бельскага, Сакольскага паветаў падпольную паўстанчую арганізацыю. Кіраваю ёю ўрад Ластоўскага, які ў той час знаходзіўся ў Коўне. Адтуль паступалі на Беласточчыну інструкцыі, грошы, літаратура. Месцам канспірацыйных кантактаў быў літоўскі пагранічны гарадок Мерач, дзе знаходзіўся беларускі партызанскі штаб. Туды час ад часу выяжджала Вера і кур'ер арганізацыі — Жэня Матэйчук. Пад канец 1921 г. паўстанчая арганізацыя мела ўжо свае ячэйкі ва ўсіх паветах Беласточчыны і Гарадзеншчыны, а ў раёне Белавескай пушчы — партызанскае злучэньне пад камандаваньнем ураджэнца вёскі Грабавец Германа Шыманюка ("Скамароха").

Узьнікненьне, характар і дзейнасьць гэтага партызанскага атраду ўсё яшчэ недастаткова вывучаны гісторыкамі. Так, напрыклад, у справаздачы зь беластоцкага "Працэсу 45–ці" (май 1923 г.) згадваецца, што "Скамароха" завэрбавала ў арганізацыю Маслоўская. Аднак жа яна сама ў размове з аўтарам гэтых радкоў (22 красавіка 1978 г.) заўважыла, што ў сапраўднасьці гэтая справа не была такой адназначнай. Летам ці восеньню 1921 г. "Скамарох" прыехаў да Маслоўскай у Агароднічкі, дзе адбылася першая іх размова. Праўда, згадзіўся ён тады падпарадкавацца прадстаўляемай Маслоўскай паўстанчай арганізацыі, аднак не прыйшоў з пустымі рукамі: ужо тады ён выступаў як камандзір партызанскага атраду, які разьмяшчаўся ў Белавескай пушчы. Такім чынам, не Маслоўская была ініцыятарам стварэньня атраду "Скамароха", у сувязі з чым цяжка пагадзіцца з выказваньнямі сучасных беларускіх гісторыкаў, што яго атрад быў створаны на падставе дырэктываў Мерачанскага штабу.

Не ўстаноўлена пакуль што і партыйная прыналежнасьць "Скамароха", на што зьвярнуў увагу У. Ладысеў[4] (гл. яго: Старонкі мужнай барацьбы // Голас Радзімы. 1977. 8 сьнежня). Маслоўская лічыла яго беспартыйным, а некаторыя менскія гісторыкі — эсэрам. Апублікаваныя ў гэтым выпуску "Беларускага календара" досьледы Васіля Петручука паказваюць, што сваякі і супрацоўнікі "Скамароха" лічылі яго камуністам і прапагандыстам савецкай улады.

У верасьні 1921 г. з ініцыятывы Ластоўскага ў Празе адбывалася Ўсебеларуская нацыянальна–палітычная нарада для абмеркаваньня беларускага пытаньня, якое стварылася пасьля заключэньня Рыскага міру і падзелу Беларусі на дзьве часткі. У нарадзе ўдзельнічала і Вера Маслоўская як дэлегат ад Беласточчыны і Гарадзеншчыны (ехала ў Прагу з пашпартам БНР празь Літву, Балтыйскае мора і Нямеччыну). У Празе праславілася як аўтар рэзалюцыі аб змаганьні за ўзьяднаньне ўсіх беларускіх земляў, якая была прынята супраць праекту згодніцкай рэзалюцыі Паўла Алексюка[5]. Варта заўважыць, што праская нарада не ўхваліла пастулятаў аб запачаткаваньні ўзброенай барацьбы, аднак рэкамэндавала працягваць адпаведную падрыхтоўку да такога змаганьня.

Праская нарада выклікала значны рэзананс у Польшчы. Заварушыліся журналісты і паліцыя. У выніку, пасьля вяртаньня Маслоўскай на радзіму яе поле дзейнасьці хутка пачало звужацца. У сьнежні 1921 г. у падпольную арганізацыю быў засланы правакатар, жыхар Саколкі Эдуард Лянкевіч[6], які здабыў давер Маслоўскай, дзякуючы чаму

[4] Ладысеў Уладзімер (нар. 1940) — беларускі гісторык, у асноўным дасьледуе гісторыю Заходняй Беларусі ў складзе міжваеннай Польшчы. — *А.П.*

[5] Аляксюк Павал (1892 — пасьля 1931) — беларускі грамадзка–палітычны дзяяч палянафільскай арыентацыі. — *А.П.*

[6] Лянкевіч Эдуард (пс. Сокал). Падчас разгляду "Працэсу 45–ці" ў апэляцыйным судзе ў Варшаве ў 1924 г. сьведка Рамуальд Зямкевіч паказаў, што бачыў Э. Лянкевіча ў 1919 г. у Менску, дзе той працаваў памочнікам камісара бальшавіцкай міліцыі. У сьнежні 1921 г. быў залучаны ў беларускую падпольную арганізацыю і, магчыма, нават выконваў абавязкі беларускага падпольнага камісара Сакольскага па-

змог глыбока пранікнуць у шэрагі кансьпіратараў. У сакавіку 1923 г. 43 падпольшчыкі з Маслоўскай на чале апынуліся за кратамі беластоцкай турмы[7]. Да адказнасьці прыцягваліся таксама С. Баран і С. Якавюк, якія як паслы ў польскі сойм пакуль што карысталіся недатыкальнасьцю[8].

Восем дзён, ад 14 да 22 мая 1923 г., адбывалася расправа ў Беластоцкім акруговым судзе, вядомая ў гісторыі як "Працэс 45–ці". Цэнтральнай яго фігурай была 27–гадовая Вера Маслоўская, якую абвінавачвалі ў тым, што: арганізавала і кіравала падпольнай арганізацыяй, удзельнічала ў праскай канфэрэнцыі, супрацоўнічала зь беларускім штабам у Мерачы, адкуль атрымоўвала сродкі на кансьпірацыйную дзейнасьць, і, урэшце, агітавала і злучала членаў арганізацыі.

Вось некалькі вытрымкаў з карэспандэнцкай справаздачы з судовай расправы:

...Маслоўская гаворыць па–беларуску. Прызнаецца, што прыймала самы актыўны ўдзел у арганізацыі, каб злучыць у адно цэлае ўсе часткі падзеленай Беларусі, аднак у гэтым віноўнай сябе ня лічыць. Гэта не праступленьне, а абавязак кожнага патрыёта перад ягонай бацькаўшчынай, ці гэта будзе беларус, паляк, ці хто–небудзь іншы... Маслоўская падробна і горача, зь пераконваючай праўдзівасьцю, гаворыць аб тым працэсе, які прывёў яе — скромную работніцу на ніве асьветы роднага народу — на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. На маладую Польскую рэспубліку беларускі народ ускладаў такія надзеі, так ахвотна і радасна верыла беларуская інтэлігенцыя абяцанкам першых правадыроў Польшчы пасьля яе ўваскрашэньня! Але ўсе гэтыя чаканьні былі ашуканы, ад гэтай веры не засталося, бадай, нічога... У часе нямецкай акупацыі беларуская нацыянальная школа расла і разьвівалася. З прыходам палякаў адразу стала адчувацца, у гэтай дарагой і важнай для беларускага народу галіне, неаб'ясьнімая варожасьць Польшчы. Палітыка Польшчы імкнулася забіць тую самую душу беларускага народу — яго жывую мову...

Аб сваёй дзейнасьці Маслоўская гаворыць:

...Сапраўды была галоўным і адзіным арганізатарам руху. Праца наша чыстая, ідэйная, ніякага шпіёнства на карысьць Літвы арганізацыя не вяла, ніякіх складаў аружжа ў нас не было... Не адмаўляюся, што ў далейшым аружжа магло быць патрэбным, але мы ўсё яшчэ верылі, што Польшча нас зразумее, што ня стане нас ніштожыць як нацыянальнасьць, што ня трэба будзе брацца за аружжа...[9]

Лягічныя аргумэнты падсуднай Маслоўскай перакрыжаваліся зь лёгікай абаронцаў польскай дзяржавы. Таму пракурор, які, магчыма, у глыбіні душы падзяляў яе маральную пазыцыю, ня мог з пункту гледжаньня інтарэсу сваёй дзяржавы ацаніць дзейнасьць гэтай маладой дзяўчыны інакш як найбольшае злачынства і пасьлядоўна патрабаваў

---

вету. Дзякуючы ягоным паказаньням польская паліцыя выйшла на сьлед беларускага падпольля на Гарадзеншчыне. У "Працэсе 45–ці" ў Беластоку браў удзел у якасьці сьведкі абвінавачаньня. Такую ж ролю адыгрываў у "Працэсе 72–х" у Горадні ў 1925 г. Пазьней працаваў у якасьці агента польскай паліцыі ў Горадні. — *А.П.*

[7] Арышты беларускіх дзяячоў адбываліся зь лютага па чэрвень 1922 г. Вера Маслоўская была арыштаваная ў сакавіку. — *А.П.*

[8] Пасьля арышту Маслоўскай актывізавалася дзейнасьць атраду "Скамароха", між іншым, у ноч з 28 на 29 красавіка 1922 г. адбылася акцыя на пастарунак паліцыі ў Кляшчэлях. У палове траўня была разьбіта база атраду ў Белавескай пушчы. Ад жніўня да сьнежня 1922 г. выдаваўся часопіс "Беларускі партызан", рэдактарам якога значыўся "Скамарох". Пазьней (1923 г.?) ён уцёк у СССР. Да 1929 г. быў дырэктарам абутковай фабрыкі ў Гомелі. Далейшы лёс невядомы. — *А.П.*

[9] Працэс 45–ці беларусаў у Беластоку. Вільня, 1923. С. 28—30.

пажыцьцёвай катаргі[10].

Усё ж на карысьць пракурора трэба сказаць наступнае: Вера не прыцягвалася да непасрэднай адказнасьці за дзеяньні атраду “Скамароха”, якія адбываліся пасьля яе арышту. Як бачым, уся яе “віна” не была большай, чым тых польскіх патрыётаў, якія звыш сотні гадоў змагаліся за ўзьяднаную і незалежную айчыну. На гэтую акалічнасьць спасылаўся абаронца Маслоўскай, генэрал Бабянскі[11], сказаўшы наступнае:

> Калі мы так цэнім наш уласны гонар і бацькаўшчыну, дык і ў іх таксама ёсьць свой гонар і бацькаўшчына... Калісь Польшча ўмела рабіць усіх сваіх грамадзян польскімі патрыётамі, нягледзячы на іхнюю нацыянальнасьць, а радзіму — блізкай і дарагой... Але тады Польшча ўмела рабіць гэта толькі для шляхты... Цяпер жа Польшча павінна ўмець рабіць тое самае для ўсяго народу. І вось ад таго, ці зможа калі–колечы зрабіць гэта новая Польшча, залежыць безумоўна існаваньне яе самой. Гэты прыгавор, паны судзьдзі, ваш прыгавор у першым палітычным нацыянальным працэсе пакажа першы раз як і колькі ўдаецца Польшчы гэтае ўменьне. Ваш прыгавор безварункова будзе мець гістарычнае значэньне. Можна сказаць, што тымі карамі сьмерці, тымі вечнымі катаргамі, якіх дамагаецца ад вас пракурор, можна дабіцца толькі паглыбленьня нянавісьці[12].

Гэты прагноз генэрала Бабянскага аказаўся трапным: якраз у той час рыхтаваўся ўладамі міжваеннай Польшчы палітычны працэс у Горадні і беластоцкі суд відавочна не лічыў магчымым выступаць супраць агульнай плыні дзяржаўнай палітыкі. У выніку, за замах на тэрытарыяльную цэласнасьць дзяржавы Вера Маслоўская была прыгаворана да шасьцігадовага турэмнага зьняволеньня.

Пакараньне адбывала ў беластоцкай турме, варшаўскай “Сэрбіі”[13] і, урэшце, зноў у

---

[10] Адносна пазыцыі пракурора на Беластоцкім працэсе захавалася сьведчаньне вядомага беларускага культурна–асьветнага дзяяча і па сумяшчальніцтве агента польскае дэфэнзывы Рамуальда Зямкевіча, які браў удзел у працэсе ў якасьці сьведкі. Зусім не сымпатызуючы падсудным, Зямкевіч, тым ня менш, пісаў у сваім адмысловым рапарце ў ІІ аддзел Генэральнага штабу:

> Пракурор Камінскі спосабам спытваньня сьведкаў, прыстраснасьцю і нянавісьцю да левых партыяў і няпольскіх нацыянальнасьцяў паказаў сябе перш за ўсё як зацяты эндэк. Так яго ўсе бяз выключэньня ў зале называлі.

Што датычыць паводзінаў на працэсе Веры Маслоўскай, то Зямкевіч сьведчыў:

> Вера Маслоўская паводзіла сябе выключна добра і з годнасьцю. На пытаньні заўсёды адказвала на выдатнай, чыстай, нават вытанчанай беларускай мове. Заўсёды ўсьмешлівая, спакойная, бясклапотная, бязь ценю робленай штучнасьці, яна здабыла сымпатыі і зычлівасьць ня толькі публікі, але і судзьдзяў. Акрамя, вядома, пракурора. Бо той пастаянна выводзіўся ёю і адвакатамі з раўнавагі. На абвінавачваньне пракурора, што Маслоўская ў бандзе Шыманюка брала ўдзел у п’янстве і оргіях, падсудная з абурэньнем кляймуе нізасьць пракурора, які адзіны з усіх намагаецца прынізіць чалавечую годнасьць абвінавачаных, прыпісваючы ім брудныя матывы і мэты, і засьведчвае, што пан пракурор штодзень папівае гарэлачку ці лікёры, а яны, беднякі, ледзьве раз на год маюць такое сьвята. Калі пракурор дамагаўся кары бестэрміновай цяжкай турмы для Маслоўскай, падсудная засьмяялася яму ў вочы.

*Крыніца*: Чарнякевіч А., Пашкевіч А. Псіхалогія здрады: беларускі нацыянальны рух вачыма канфідэнта ІІ аддзела польскага Генеральнага штаба // ARCHE. 2005. № 6. С. 249.

[11] Варшаўскі адвакат Аляксандар Бабянскі (1853—1931), генэрал–лейтэнант і былы сябра расейскай Дзяржаўнай думы, абараняў беларусаў на “Працэсе 45–ці” разам зь віленскімі адвакатамі Тадэвушам Урублеўскім і Стэфанам Міцкевічам. Пазьней ён быў адвакатам і на іншых судовых працэсах над беларускімі дзеячамі, у тым ліку і на т.зв. “Працэсе 56–ці” над лідэрамі Беларускай сялянска–работніцкай грамады.

[12] Працэс 45–ці беларусаў. С. 290.

[13] “Сэрбіяй” называлася жаночае аддзяленьне варшаўскае турмы “Павяк”. — *А.П.*

Беластоку. Вялікую маральную падтрымку зьняволенай Веры і яе таварышам аказвала беларуская грамадзкасьць, у прыватнасьці, актыў створанай летам 1922 г. Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (БРА)[14]. Першы адгукнуўся Леапольд Родзевіч, які прысьвяціў Маслоўскай свой верш “Начны сьветагляд”[15].

Неўзабаве, 19 ліпеня 1923 г. ён пісаў маці Веры, Ганьне Матэйчук, у Агароднічкі:

> Паважаная пані! Выдавецтва беларускай газэты “Наш Сьцяг” просіць Вас не адмовіцца прыслаць нам па ніжэй пададзенаму адрасу фатаграфію Вашай гераічнай дачкі Веры. Калі маеце яе рукапісы, як вершы, апавяданьні ці іншае, дык таксама просім прыслаць заказной аплатай на наш рахунак. Вельмі пажадана было б мець хоць бы кароткае жыцьцёапісаньне п. Веры. Нецярпліва чакаем адказу. Пішыце па адрасу: Wilno, Wileńska 12 m. 6. Redakcja “Nasz Ściah”. Сакратар выдавецтва Л. Родзевіч[16].

Няведамымі шляхамі, праз турэмныя краты дасылала Маслоўская на волю свае лісты і вершы. Сярод іх знойдзены верш, прысьвечаны органу БРА, “Вольны Сьцяг”, які быў надрукаваны ў гэтай жа газэце 16 верасьня 1923 г. Вершы Маслоўскай у той час друкаваліся таксама ў расейскай газэце “Рассвет”[17], якая выдавалася ў Амэрыцы. Праўдападобна, вынікам стараньняў БРА і рэдакцыі “Рассвета” была матэрыяльная дапамога, якую зьняволеным арганізавалі беларускія эмігранты ў Амэрыцы. У гэтай сувязі чарговы орган БРГ (БРА? — *Рэд.*) “Змаганьне”[18] (1923. 19 сьнежня) апублікаваў наступную карэспандэнцыю: “Мы, усе вязьні па Беластоцкаму працэсу, шлём шчырую падзяку за памяць аб нас нашым братам — беларусам у Амэрыцы. Шлём з–за турэмных кратаў сваё шчырае прывітаньне ўсім працаўнікам–беларусам. Ад імя ўсіх вязьняў Вера Маслоўская”.

За турэмнымі кратамі, цераз грыпсы[19] і прыбіральшчыцу завязалася ў Веры Маслоўскай знаёмства з Уладзімерам Карчэўскім зь вёскі Пухлы, таксама настаўнікам і палітычным вязьнем, якое ператварылася ў вялікае каханьне. 6 чэрвеня 1927 г. абое выйшлі на волю, а 21 лістапада таго ж году ажаніліся. Аднак як былыя палітвязьні ні Вера, ні Ўладзімер працы ў школе не атрымалі. Сьпярша жылі ў Гайнаўцы, дзе Карчэўскі працаваў на шкіпідарным заводзе, а потым у Альпені на Палесьсі і ў Кодані над Бугам, дзе Ўладзімер быў царкоўным псаломшчыкам, а Вера — арганізатарам мастацкай самадзейнасьці (у Альпені ставілі, між іншым, Купалаву “Паўлінку”, ролю якой выконвала Вера). У гэты час мяняецца характар яе паэтычнай творчасьці: замест рэвалюцыйнага патасу зьяўляецца лірыка і прыродаапісаньне.

---

[14] Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя (БРА) — нелегальная рэвалюцыйна–дэмакратычная арганізацыя ў Заходняй Беларусі, якая дзейнічала ў 1922—1923 г. Вылучылася з партыі беларускіх эсэраў і падтрымлівала сувязі з камуністамі. Лідэрамі БРА былі Язэп Лагіновіч, Арсень Канчэўскі, Леапольд Родзевіч і іншыя. У канцы 1923 г. арганізацыя самараспусьцілася, увайшоўшы ў склад КПЗБ. — *А.П.*

[15] Гэты верш быў надрукаваны ўжо 30 мая 1923 г. у віленскай газэце “Наша жыцьцё”, за што газэту канфіскавалі. Пазьней рукапіс верша Родзевіч выслаў у Прагу, дзе Ўладзімер Жылка яго надрукаваў у часопісе “Перавясла” (1923. № 1. Лістапад—сьнежань). У 1980 г. верш быў перадрукаваны ў беластоцкім альманаху “Белавежа III”, на жаль, без ініцыялаў Веры Маслоўскай (“В.М.”), якой Родзевіч прысьвяціў свой верш.

[16] Туронак Ю. Забытая ліра Веры Мурашкі [С. 794—796 у гэтым выданьні. — *Рэд.*] // Ніва. 05.03.1978. Тамсама некалькі вершаў Веры.

[17] “Рассвет” — штодзённая газэта, якая выдавалася ў 1924—1940 г. расейскімі рабочымі арганізацыямі ЗША і Канады ў Чыкага і Нью–Ёрку. — *А.П.*

[18] Газэта “Змаганьне” выходзіла з 28 кастрычніка 1923 г. па 31 студзеня 1924 г. пад рэдакцыяй Міколы Шылы. — *А.П.*

[19] Грыпсамі зьняволеныя польскіх турмаў называлі маленькія цыдулачкі, якімі яны абменьваліся паміж сабою. — *А.П.*

Да настаўніцкай працы Вера з мужам вяртаюцца толькі пры савецкай уладзе. З восені 1939 г. працавалі ў Калантаях Ваўкавыскага павету, а летам 1940 г. вяртаюцца ў Агароднічкі. Тут арганізуюць беларускую няпоўную сярэднюю школу. У гэтай школе працавалі таксама ў часе нямецкай акупацыі (да Калядаў 1941 г.), а пазьней, калі яўнае навучаньне было забаронена, вучылі дзяцей таемна. Восеньню 1943 г. зноў адкрываецца беларуская школа ў Агароднічках, у якой надалей працуюць Карчэўскія.

У Агароднічках працавала Вера і пасьля вайны, выкладаючы родную мову ў паралельных клясах зь беларускай мовай навучаньня. Аднак гэтая яе дзейнасьць была сольлю ў вачох падпольля[20]. У выніку яго тэрарыстычных дзеяньняў Вера была вымушана спыніць настаўніцкую працу ў Агароднічках і ў чэрвені 1946 г. выехала ў Жагань на Сылезіі. Тут арганізавала дзіцячы сад, якім кіравала пяць гадоў. У палове 1951 г. вярнулася ў Супрасьль, дзе загадвала гарадзкой бібліятэкай, працавала ў Лізе жанчын[21], была выбрана раднай у беластоцкую Павятовую раду нарадовую. Зь верасьня 1958 г. — на пэнсіі. Памерла 23 студзеня 1981 г. у Супрасьлі, пахаваная на мясцовых могілках.

Да апошніх дзён Вера жыва цікавілася дзейнасьцю беларускага грамадзка–культурнага таварыства, была пастаянным чытачом “Нівы” і “Беларускіх календароў”, удзельнікам Супрасьлеўскага царкоўнага хору. Яе невялікае памяшканьне было своеасаблівым цэнтрам, у якім панавала родная атмасфэра, дзе можна было знайсьці беларускае друкаванае слова і атрымаць шмат зьвестак аб мінулым. Толькі ў апошнія гады жыцьця “адважылася” прадставіць нізку сваіх вершаў, якія апублікавала “Ніва” (1978. 5 сакавіка). З гэтага часу і пачалося “адкрываньне” Веры і яе цікавага жыцьцяпісу, які сьмела можна назваць калейдаскопам лёсаў нашай інтэлігенцыі, ужо амаль адыйшоўшага пакаленьня зь яго імкненьнямі, дасягненьнямі і памылкамі, але заўсёды зь непахіснай верай у лепшую будучыню.

*Друкуецца паводле:* Беларускі каляндар. Беласток: БГКТ, 1990.

[20] Маецца на ўвазе пасьляваеннае польскае антыкамуністычнае падпольле. — *А.П.*

[21] Ліга польскіх жанчын — масавая польская жаночая арганізацыя, якая вядзе сваю гісторыю ад 1913 г. За часамі Польскай Народнай Рэспублікі насіла афіцыёзны характар. — *А.П.*

# ***Маргіналіі***

# Народная гаспадарка савецкай Беларусі

У пасьляваенны пэрыяд наступілі вялікія зьмены ўва ўсіх галінах жыцьця Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У выніку самаадданай працы, абапіраючыся на ўзаемнае супрацоўніцтва ўсіх народаў Савецкага Саюзу, беларускі народ у кароткі час ня толькі ліквідаваў ваенныя разбурэньні, але і дабіўся новых, вялікіх посьпехаў у разьвіцьці ўсіх галін гаспадаркі.

Сёньня Беларуская ССР — адзін з найбуйнейшых эканамічных раёнаў Савецкага Саюзу. Па колькасьці насельніцтва, якое ў 1963 г. складала 8,4 мільёны чалавек, уступае яна толькі Расейскай фэдэрацыі, Украіне, Казахстану і Ўзбэкістану. Беларусь займае таксама значнае месца ў агульнасаюзнай прамысловай вытворчасьці. Так, напрыклад, займаючы каля 4% насельніцтва СССР, Беларусь выпускае звыш 11% усіх мэталарэзных станкоў у СССР, 5% грузавых аўтамабіляў, каля 13% трактараў, 14% ровараў, 17% матацыкляў, 10% ільняных тканін і г.д. Вырабы з маркамі беларускіх фабрык сустракаюцца ўжо ня толькі ўва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюзу, але і экспартуюцца ў многія краіны Эўропы, Азіі і іншыя.

## Багацьці зямлі беларускай

У выніку сыстэматычных і плянамерных геалягічных пошукаў, якія праводзіліся ў Беларусі савецкімі вучонымі, былі адкрыты новыя мінэральныя багацьці, якія маюць важнае прамысловае значэньне.

Найбольш важным сярод разьведаных энэргетычных сыравін у Беларусі ёсьць *торф*, вялізарныя запасы якога складаюць каля 5 мільярдаў тон (у пераліку на паветрана–сухі). Гэта значыць, што пры цяперашніх памерах эксплюатацыі паліва гэтага хопіць прыкладна на 500 гадоў. Торф мае таксама вялікае значэньне як мясцовае арганічнае ўгнаеньне, а ў будучыні стане, магчыма, каштоўнай сыравінай для хімічнай прамысловасьці.

У апошнія гады былі ўстаноўлены на Палесьсі радовішчы *нафты* і *каменнага вугалю*. Зараз вядуцца ў гэтым раёне далейшыя дасьледаваньні, якія, магчыма, дазволяць вырашыць справу эксплюатацыі гэтых відаў паліва. Пэўнае значэньне для Беларусі мае таксама гідраэнэргія, так званы “белы вугаль” — энэргія такіх рэк, як Дзьвіна, Нёман, Дняпро і іншыя.

Асабліва важнае значэньне для пэрспэктыў разьвіцьця беларускай хіміі маюць адкрытыя на Палесьсі грамадныя рэсурсы *каменнай солі*, а таксама *калійных соляў*. Як паказваюць падлікі, запасы калійных соляў у Беларусі займаюць другое месца на сьвеце і перавышаюць іх у такіх краінах як Злучаныя Штаты Амэрыкі, Францыя, Нямеччына, Гішпанія.

У Беларускай ССР выведаны вялікія рэсурсы разнастайных *мінэральных* сыравін для прамысловасьці будаўнічых матэрыялаў, як даляміты, вапнякі, крэйда, мэргель, гліна, сылікатныя і кварцавыя пяскі, гравій, валуны і іншыя. Гэтыя мінэралы дазваляюць разьвіваць вытворчасьць амаль усіх будаўнічых матэрыялаў, між іншым, цэмэнту, сьценавых блёкаў і г.д.

Багатая Беларусь *лясамі*. Пакрытая лесам плошча займае тут 31,2% тэрыторыі рэспублікі, што стварае спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця дрэваапрацоўчай і паяровай прамысловасьці.

Трэба таксама зьвярнуць увагу на вялікае значэньне мясцовых *сельскагаспадарчых сыравін,* як ільновалакно і каноплям — для тэкстыльнай прамысловасьці, і іншыя прадукты — для харчовай прамысловасьці.

Разьведка багацьцяў беларускай зямлі працягваецца далей. Можна спадзявацца, што яна прынясе далейшыя посьпехі ў выглядзе новых відаў мінэралаў для прамысловасьці.

## Разьвіцьцё прамысловасьці

Асаблівая ўвага ў пасьляваенным разьвіцьці народнай гаспадаркі Беларускай ССР была зьвернута на хуткі рост прамысловасьці, якая сёньня зьяўляецца вядучай галінай эканомікі рэспублікі. На разьвіцьцё прамысловасьці была накіравана пераважная частка капіталаўкладаньняў у народную гаспадарку Беларусі. Валавая прадукцыя прамысловасьці БССР у 1962 годзе ў 5,2 разы перавышала даваенны ўзровень. Асабліва хуткі рост прамысловай вытворчасьці наглядаецца ў Беларусі ў бягучай сямігодцы[1] (1959—1965). Так, напрыклад, у гадох 1959—1962 валавая прадукцыя прамысловасьці ўзрасла на 58% замест 37% па пляне. Чакаецца, што ў 1965 годзе яна перавысіць ў 2,1 разу ўзровень 1958 году.

Адначасова з хуткім ростам прамысловай прадукцыі наступаюць важныя зьмены ў структуры беларускай прамысловасьці.

*Энэргетыка і паліўная прамысловасьць.* У выніку адбудовы існаваўшых перад вайной і пабудовы новых электрастанцыяў вытворчасьць электраэнэргіі ў Беларусі дасягнула ў 1962 годзе 4,6 мільярдаў кіляватгадзін, што амаль у дзесяць разоў перавышае даваенны ўзровень. Цікава адзначыць, што сёньня адна толькі Беларуская ССР прадукуе электраэнэргіі ў два разы больш, чым уся дарэвалюцыйная Расея. У бліжэйшыя гады значна павялічацца магутнасьці беларускіх электрастанцыяў, у выніку чаго вытворчасьць электраэнэргіі перавысіць у 1965 годзе 7 мільярдаў кіляватгадзін.

Яшчэ некалькі гадоў таму назад асноўным відам паліва ў Беларусі быў торф. Прадукцыя гэтага паліва складала ў апошнія гады каля 9 млн. тон. За гады бягучай сямігодкі ў БССР будуць пабудаваны новыя торфапрадпрыемствы, а агульная прадукцыя торфу павялічыцца амаль да 15 млн. тон. Акрамя таго, разгортваецца ў рэспубліцы вытворчасьць тарфяных брыкетаў і паўбрыкетаў, прадукцыя якіх у 1965 годзе перавысіць 1,5 млн. тон.

Важныя зьмены наступяць у гады сямігодкі ў паліўным балянсе Беларусі ў сувязі з пабудовай шэрагу газаправодаў і нафтаправодаў, якімі будзе пастугаць зь іншых рэспублік СССР прыродны газ і нафта. Ацэньваецца, што да 1965 году спажываньне газу ў Беларусі дасягне 2 млрд. куб. м. у год, што адпавядае прыкладна 7 млн. тон торфу. Агулам у 1965 годзе ўдзельная вага нафты і газу ў паліўным балянсе Беларусі складзе каля 41%: замест 4,3% у 1958 годзе, а торфу — адпаведна зьменшыцца з 44,5% да 35,4%.

*Машынабудаўнічая прамысловасьць* ёсьць найбольш разьвітай галіной прамысловасьці Беларусі. У 1962 годзе яна выпускала вялікі асартымэнт мэталарэзных станкоў (20 тыс. штук), аўтамабіляў (22,4 тыс. штук), трактараў (45,1 тыс. штук), камбайнаў (35 тыс. штук), дзясяткі тысяч розных сельскагаспадарчых машын, электраматоры, трансфарматары і іншыя.

Беларускія машынабудаўнічыя заводы выпускаюць, акрамя машын і абсталяваньня для прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і транспарту, таксама вялікія коль-

[1] Сямігадовыя гаспадарчыя пляны былі ўведзеныя ў СССР замест пяцігадовых XXI зьездам КПСС у пачатку 1959 г. Пасьля зьмяшчэньня з пасады 1–га сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова ў 1964 г. краіна зноў вярнулася да пяцігадовых плянаў. — *А.С.*

касьці вырабаў шырокага ўжытку. Так, напрыклад, Менскі мотавэлясыпэдны завод выпусьціў у 1962 годзе 106 тысяч матацыкляў і 410 тысяч вэлясыпэдаў, а Менскі радыёзавод — 160 тысяч тэлевізараў і 243 тысячы радыёпрыёмнікаў і радыёлаў. Беларускія заводы выпусьцілі ў 1962 годзе таксама 1,2 мільёны гадзіньнікаў, 242 тысячы швейных машын, піяніна і цэлы шэраг іншых вырабаў.

У гады бягучай сямігодкі прадукцыя машынабудаўнічай прамысловасьці ў Беларускай ССР павялічыцца ў 2,2 разы.

*Хімічная прамысловасьць Беларусі* яшчэ некалькі гадоў таму назад праяўляла сур'ёзнае адставаньне. Вытворчасьць гэтай прамысловасьці абмяжоўвалася ў асноўным вырабамі лесахіміі. У гады сямігодкі ў Беларусі ствараецца новая галіна прамысловасьці — вытворчасьць мінэральных угнаеньняў. На базе палескіх калійных соляў у 1958 годзе пачалося будаўніцтва аднаго з найбольшых у СССР Салігорскага калійнага камбінату, які дасьць першую прадукцыю ў 1963 годзе. Згодна з задачамі сямігадовага пляну, да 1965 году Беларуская ССР будзе выпускаць больш ад 20% агульнасаюзнай прадукцыі калійных угнаеньняў, што забясьпечыць ня толькі патрэбы сельскай гаспадаркі Беларусі, але будзе вывозіцца ў суседнія рэспублікі СССР, а таксама ў іншыя краіны, між іншым, у Польшчу. Намечана таксама будаўніцтва двух заводаў фосфарных угнаеньняў у Бабруйску і Гомелі і аднаго заводу азотных угнаеньняў у Горадні, працягваецца будаўніцтва другога калійнага камбінату ў Салігорску.

За гады сямігодкі ў Беларусі ў 3,5 разы павялічыцца прадукцыя штучнага валакна. Будзе наладжана таксама вытворчасьць вырабаў з пластмасаў, штучнай скуры, фарбаў, лакаў і іншых хімічных вырабаў. У Полацку будзе пабудаваны першы нафтаперапрацоўчы завод, які будзе выпускаць, між іншым, шэраг хімічных вырабаў, што атрымліваюцца на базе нафты.

*Прамысловасьць будаўнічых матэрыялаў* выпускае шырокі асартымэнт найбольш сучасных відаў матэрыялаў, неабходных для прамысловага і жыльлёвага будаўніцтва. Вытворчасьць цэмэнту павялічылася за гады 1940—1962 у пяць разоў і дасягнула 1 млн. тон, а прадукцыя ваконнага шкла ўзрасла за гэты час больш чым у 6 разоў і дасягнула 12,3 млн. $м^2$. У вялікіх колькасьцях выпускаецца цэгла (1,4 млрд. штук), чарапіца, вапна, шыфэр, гіпс і іншыя. У апошнія гады хуткі рост праяўляе вытворчасьць зборных жалезабэтонных канструкцыяў, дэталяў і іншых сучасных відаў будаўнічых матэрыялаў, што спрыяе індустрыялізацыі будаўніцтва.

*Дрэваапрацоўчая прамысловасьць* — адна з найбольш разьвітых і традыцыйных галінаў прамысловасьці Беларусі. Нягледзячы на намечанае ў сямігодцы зьмяншэньне памеру рубкі лесу, вытворчасьць дрэваапрацоўчай і папяровай прамысловасьці значна павялічыцца. Вытворчасьць мэблі ўзрасьце на 71% у параўнаньні да 1958 году, дэталяў для стандартных і тыповых дамоў — на 41%, будзе арганізавана вытворчасьць драўляна–стружкавых пліт і

**Лёгкая прамысловасьць Беларусі**

| Від прадукцыі | Адзінка вымярэньня | 1940 | 1958 | 1965 |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| Тканіны | | | | |
| баваўняныя | млн. $м^2$ | 9,1 | 3,5 | 65,0 |
| шарсьцяныя | млн. $м^2$ | 0,3 | 4,4 | 19,5 |
| ільняныя | млн. $м^2$ | 15,8 | 46,6 | 50,2 |
| шаўковыя | млн. $м^2$ | 0,0 | 0,8 | 10,9 |
| Панчошна–шкарпэткавыя вырабы | млн. пар | 81,0 | 77,6 | 81,3 |
| Бялізнавы трыкатаж | млн. штук | 17,4 | 26,1 | 31,6 |
| Верхні трыкатаж | млн. штук | 1,2 | 3,6 | 5,8 |
| Скураны трыкатаж | млн. пар | 9,8 | 16,1 | 24,3 |

драўляна–валакністых пліт на аснове выкарыстаньня драўнінных адходаў. Прадукцыя паперы ў гадох 1958—62 павялічылася з 67,3 тыс. — да 77,2 тыс. тон.

*Лёгкая прамысловасьць*. Валавая прадукцыя лёгкай прамысловасьці Беларусі за сямігодзьдзе 1959—65 павялічыцца прыкладна на 70%. Вытворчасьць важнейшых відаў прадукцыі гэтай прамысловасьці ўзрасьце ў наступным аб'ёме.

За сямігодку будуць пабудаваны і ўведзены ў дзеяньне баваўняны камбінат у Баранавічах, новы буйны ільнокамбінат у Маладэчне і другая чарга Аршанскага ільнокамбінату, ільнопрадзільная фабрыка, другі дывановы камбінат у Берасьці і многія іншыя прадпрыемствы лёгкай прамысловасьці. У выніку прадукцыя баваўняных тканін узрасьце за сямігодзьдзе ў 18 разоў, шарсьцяных — у 4,4 разы, і шаўковых — у 14 разоў. Значна ўзрасьце вытворчасьць трыкатажнай прамысловасьці і абутку.

На аснове росту сельскагаспадарчай сыравіны прадукцыя *харчовай прамысловасьці* павялічыцца за сямігодзьдзе на 60%, значна павялічыцца таксама прадукцыя кансэрваў, якая ўжо ў 1962 годзе дасягнула 215 млн. умоўных банак. За сямігодзьдзе прадугледжваецца пабудаваць у Беларускай ССР чатыры новыя цукровыя заводы, што дазволіць павялічыць вытворчасьць цукру прыкладна ў 6 разоў у параўнаньні да 1958 году. У бліжэйшыя гады закончыцца пабудова новых мясакамбінатаў, малочных заводаў, малочна–кансэрвавых, броварных і многіх іншых прадпрыемстваў харчовай прамысловасьці.

## Сельская гаспадарка

Уся зямля ў Беларускай ССР становіць уласнасьць дзяржавы і знаходзіцца ў карыстаньні калгаснага сялянства, саўгасаў і іншых дзяржаўных гаспадарак. Паводле дадзеных на 1 лістапада 1961 году, ворная зямля ў рэспубліцы складала агулам 6,1 млн. га, з чаго 5,8 млн га, або 95%, знаходзіліся ў грамадзкім карыстаньні калгасаў, саўгасаў і іншых дзяржаўных гаспадарак, і толькі 0,3 млн. га, або 5%, складалі прысядзібныя ўчасткі калгасаў.

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне сацыялістычнай індустрыялізацыі ў СССР стварыла магчымасьць шырокай *мэханізацыі сельскай гаспадаркі*. Сёньня на палёх Беларусі працуюць дзясяткі тысяч трактараў, камбайнаў і іншых сельскагаспадарчых машын. Аб хуткім росьце мэханізацыі сельскай гаспадаркі Беларусі сьведчыць, між іншым, факт, што за пэрыяд 1940—1962 колькасьць трактараў павялічылася амаль у пяць зь лішнім разоў, а зерневых камбайнаў больш як у сем разоў.

За пасьляваенны пэрыяд пашырана таксама пасяўная плошча ў Беларусі, галоўным чынам у выніку асушэньня забалочаных зямель.

За гады 1953—1961 валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі Беларускай ССР павялічылася на 61% і дасягнула 2558 млн. рублёў, з чаго большую частку (57%) складала вытворчасьць земляробства і меншую (43%) — жывёлагадоўлі.

Наступныя дадзеныя характарызуюць дынаміку вытворчасьці земляробства Беларусі за пасьляваенныя гады.

Вытворчасьць збожжавых культур у Беларусі разьвівалася ў пасьляваенны пэрыяд нездавальняюча. У той самы час прадукцыя ільновалакна павялічылася амаль у 2,5 разы. Хуткі рост праяўляла таксама вытворчасьць цукровых буракоў (фабрычных) у сувязі з узрастаючым запатрабаваньнем беларускіх цукровых заводаў на сыравіну. Вытворчасьць бульбы складала

**Вытворчасьць важнейшых прадуктаў у БССР**

| | **1940** | **1953** | **1961** | **1962** |
|---|---|---|---|---|
| Збожжавыя культуры — усе | 2,727 | 1,572 | 2,264 | 1,766 |
| Ільновалакно | 36 | 20 | 82 | 88 |
| Цукровыя буракі | – | 91 | 391 | 367 |
| Бульба | 11,879 | 8,040 | 10,925 | 7,016 |

ў 1961 годзе 10,9 млн. тон, гэта значыць, амаль дасягнула даваеннага ўзроўню.

Вялікія задачы пастаўлены перад сельскай гаспадаркай Беларусі бягучым сямігадовым плянам. Згодна з плянам, ураджайнасьць збожжавых культур у Беларусі павінна ўзрасьці да 1965 году да 15 цэнтнэраў з га. У 1965 годзе ўраджайнасьць ільну павінна скласьці 4,0 ц з га, а вытворчасьць ільновалакна — 110,8 тыс. тон. Да канца сямігодкі вытворчасьць цукровых буракоў павінна ўзрасьці да 800—900 тыс. тон, а іх ураджайнасьць — да 180 ц з га. Яшчэ хутчэй мае ўзрасьці вытворчасьць бульбы і дасягнуць у 1965 годзе 17,1 млн. тон пры сярэдняй ураджайнасьці 160 ц з га.

Вялікія зьмены наступілі таксама ў жывёлагадоўлі Беларусі. За пасьляваенны пэрыяд значна павялічылася пагалоўе і ўзрасла прадуктыўнасьць гэтай галіны сельскай гаспадаркі.

Як паказваюць гэтыя даныя, стан пагалоўя ўсіх відаў жывёлы (акрамя авечак і коз) на пачатку 1963 году значна перавышаў даваенны ўзровень. Пры гэтым трэба адзначыць, што за гэты час яшчэ хутчэй павялічыўся лік жывёлы, якая знаходзіцца ў грамадзкім статку калгасаў і саўгасаў. Так, напрыклад, на пачатку 1963 году ўдзел грамадзкага статку калгасаў і саўгасаў у агульным пагалоўі буйной рагатай жывёлы складаў у Беларусі 62%, кароў — 45%, сьвіньняў — 47%, а авечак і коз — 55%. Апошняя частка жывёлы складала асабістую ўласнасьць калгасьнікаў, работнікаў і служачых.

Адначасова з ростам пагалоўя жывёлы ў Беларусі наглядаўся рост жывёлагадоўчай вытворчасьці, а ў першую чаргу — мяса і малака. Агульная вытворчасьць мяса (па ўсім катэгорыям гаспадарак) дасягнула ў 1962 годзе 453 тыс. тон у забойнай вазе, супраць 275 тыс. тон у 1949 годзе. Вытворчасьць малака ў рэспубліцы павялічылася за гэты пэрыяд з 2,0 да 3,5 млн. тон.

Згодна з задачамі сямігадовага пляну, вытворчасьць мяса ў Беларусі павінна дасягнуць у 1965 годзе 825 тыс. тон, малака — 5,2—5,4 млн тон і яек — 1,2 млрд. штук супраць 0,9 млрд. штук у 1962 годзе.

У бліжэйшыя гады значэньне жывёлагадоўлі ў Беларусі значна павялічыцца згодна з спэцыялізацыяй сельскай гаспадаркі рэспублікі, што ажыцьцяўляецца ў напрамку жывёлагадоўлі. Пастанова V пленуму ЦК КПБ сьцьвярджае, што Беларусь павінна быць раёнам інтэнсіўнай малочна–мясной жывёлагадоўлі, сьвінагадоўлі і птушкагадоўлі. Яна мае спрыяльныя прыродныя і эканамічныя ўмовы для вытворчасьці таннага мяса, малака, яек і іншых прадуктаў жывёлагадоўлі.

*Друкуецца паводле:*
Беларускі каляндар. Беласток, 1964.

**Жывёлагадоўля ў Беларусі* (тыс. тон)**

| | 1941 | 1954 | 1962 | 1963 |
|---|---|---|---|---|
| Буйная рагатая жывёла | 2,844 | 2,678 | 4,056 | 4,122 |
| у тым ліку | | | | |
| Каровы | 1,956 | 1,553 | 2,130 | 2,192 |
| Сьвіньні | 2,520 | 1,764 | 3,682 | 3,211 |
| Авечкі і козы | 2,578 | 1,632 | 1,307 | 1,125 |

* Стан на 1 студзеня.

# Працяг слаўных традыцыяў

Як ні дзіўна, але выдавецкая дзейнасьць Скарыны ў Празе ў XVI ст. многім з нас вядома лепш, чым сучасныя беларуска–чэхаславацкія культурныя сувязі. Карыстаючыся пабыўкай у Празе, мы папрасілі Вацлава Жыдліцкага[1], дацэнта Карлавага ўнівэрсытэту, расказаць чытачам “Нівы” аб тым, што ў нашыя дні робіцца ў сталіцы братняй Чэхаславаччыны для азнаямленьня зь беларускай мовай, для папулярызацыі беларускай літаратуры.

Вось, сядзім у прасторным пакоі–кабінэце, дзе паміж кніжнымі стэляжамі амаль на кожным свабодным месцы на сьценах вісяць карціны. Сярод рэпрадукцыяў сусьветных мастакоў, чэскага Славічэка[2] і расейскага Шышкіна, зьвяртаюць увагу цікавыя арыгіналы. Гаспадар, заўважыўшы мой зьдзіўлены позірк, паясьняе: “Гэта мой беларускі скарб. Калісьці мяне вельмі зацікавіла выстава “клоўнаў” Барыса Малкіна[3] ў Менску. Я папрасіў пазнаёміць мяне з аўтарам — цудоўным мастаком і чалавекам. І на памяць аб нашай сустрэчы, апрача аднаго “клоўна”, атрымаў вось “Яраслаўну”, “Галаву старога мужчыны”, натурморт з рыбамі і іншыя. Праўда, прыгожыя карціны? Дасюль з удзячнасьцю згадваю аўтара і, гледзячы на яго творы, успамінаю «мой» Менск і маіх беларускіх сяброў”.

Цікавая размова працягваецца...

**Ніва:** *Як паведамлялася ў прэсе, у Праскім унівэрсытэце вывучаецца беларуская філялёгія. Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна аб арганізацыі і абсягу яе навучаньня.*

**Жыдліцкі:** Пры катэдры расейскай мовы і літаратуры нашага ўнівэрсытэту існуе аддзяленьне беларусістыкі і ўкраіністыкі. У рамках гэтага аддзяленьня, узьніклага пасьля рэарганізацыі катэдры ўсходнеславянскіх літаратур, ужо шмат гадоў вывучаецца беларуская мова і літаратура. Згодна зь існуючым рэглямэнтам, усе нашы студэнты–славісты, акрамя свайго асноўнага філялягічнага напрамку абавязаны слухаць лекцыі па гісторыі, мове і літаратуры аднаго зь іншых славянскіх народаў. Аб выбары гэтага дадатковага напрамку вырашаюць яны самі. У такім пляне найбольшую зацікаўленасьць беларусістыкай праяўляюць студэнты расейскай філялёгіі.

Пытаньнямі беларускага мовазнаўства займаюцца на нашай катэдры прафэсар Уладзімер Барнэт і дацэнт Мікола Затаўканюк. Першы зь іх цікавіцца гісторыяй беларускай мовы, другі — сучасным мовазнаўствам. Іх навуковыя працы друкаваліся, між іншым, і ў польскім журнале “Slavia Orientalis”. Я займаюся гісторыяй беларускай літаратуры.

Вынікам нашай калектыўнай працы будзе падручнік “Уводзіны да беларусістыкі”, які ўжо неўзабаве атрымаюць студэнты славістыкі. У ім прадугледжаны матэрыялы па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускай мовы ў параўнаньні зь іншымі славянскімі мовамі, нарыс па гісторыі беларускай літаратуры, а таксама шырокая бібліяграфія працаў па ўпамянутых пытаньнях.

*Ці Вашы зацікаўленьні беларускай літаратурай абмяжоўваюцца толькі навуковай і дыдактычнай дзейнасьцю?*

Ня толькі. Шмат часу прысьвячаю таксама перакладам твораў беларускіх савецкіх пісьменьнікаў на чэскую мову. За мінулыя пяць–шэсьць гадоў выйшлі ў праскіх выдавецтвах перакладзеныя мною кнігі Караткевіча “Дзікае паляваньне караля Стаха” (1972) і раман “Нельга забыць” (1976), Карпюка “Данута” (1974), Адамовіча “Хатын-

[1] Жыдліцкі Вацлаў (1931—2002) — чэскі філёляг, перакладнік, доктар філязофіі, філялёгіі і мастацтвазнаўства. У 1955—1981 г. выкладаў украінскую і беларускую літаратуру ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе. — *А.П.*

[2] Славічэк Антанін (1870—1910) — чэскі мастак, майстар нацыянальнага рэалістычнага пэйзажу. — *А.П.*

[3] Малкін Барыс (1908—1972) — беларускі тэатральны мастак. — *А.П.*

ская аповесьць” (1975), Шамякіна “Сэрца на далоні” (1975), Быкава “Абэліск” (1975) і “Дажыць да сьвітаньня” (1976), Брыля “Птушкі і гнёзды” (1976) і Пташнікава “Мсьціжы”, якая выйдзе з друку ў бліжэйшыя тыдні.

Гэта далёка ня ўсе пераклады беларускай мастацкай літаратуры, якія выйшлі ў Празе. Шмат працуюць і іншыя перакладчыкі. Напрыклад, дасюль выйшла ў нас адзінаццаць кніжак Быкава, большая частка якіх — у дасканалым перакладзе Яраслава Гулака[4]. У мінулым годзе паявіўся пераклад “Тартака” Пташнікава, а ў бліжэйшыя месяцы наш чытач атрымае кнігу Мележа “Людзі на балоце” і кнігу выбраных апавяданьняў А. Кудраўца.

У галіне перакладаў беларускай паэзіі працуюць Ільля Гайсьлер і Яраслаў Кабічэк[5]. У іх перакладзе зьмешчана ў сёлетнім ліпеньскім нумары “Световай літэратуры” падборка вершаў Танка, а ў 1977 г. выйдзе асобны зборнік паэзіі гэтага аўтара. На 1978 год плянуецца выпуск анталёгіі дзесяці сучасных беларускіх паэтаў, які выйдзе ў выдавецтве “Československy spisovatel”. Часта прыходзіцца мне рабіць моўную кансультацыю тым маім калегам, якія ў сваёй перакладчыцкай працы карыстаюцца тэкстамі твораў, выдадзеных у перакладзе на расейскую мову. Агульная заўвага: на працягу апошніх пяці–шасьці гадоў зроблена ў нас для папулярызацыі беларускай літаратуры больш, чым за ўсе мінулыя дзесяцігодзьдзі.

*Гэта вялізарная праца. З прыемнасьцю віншуем Вас і Вашых калег. Скажыце яшчэ, ці пераклады не адбіваюцца адмоўна на Вашай навуковай рабоце?*

Думаю, што не. Бачыце, праца над перакладам дае магчымасьць лепш пазнаць аўтара, глыбей пранікнуць ня толькі ў сьвет яго ідэяў, але таксама ў яго творчую майстэрню, пазнаёміцца з “тэхнічнымі” аспэктамі яго творчасьці. Некаторыя перакладзеныя творы (напрыклад, “Хатынская аповесьць” Адамовіча, “Дажыць да сьвітаньня” Быкава ці “Мсьціжы” Пташнікава) дапоўнены маімі пасьляслоўямі — вялікімі літаратуразнаўчымі артыкуламі. Адзін зь іх — пра “Хатынскую аповесьць” Адамовіча — друкаваўся ў менскім часопісе “Нёман”. Падрыхтаваў таксама ўступ да зборніка паэзіі Танка, аб якім успамінаў вышэй. Мною апрацаваны і разьдзел аб беларускай літаратуры, які ўвайшоў у выпушчаны ў мінулым годзе сёмы том “Гісторыі сусьветнай літаратуры”, якая выдаецца ў Заграбе.

*Вашы намеры на будучыню?*

Спадзяюся, што ў наступным годзе выйдзе перакладзеная мною аповесьць Караткевіча “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”. Зараз працую над перакладам кніжкі Адамовіча, Брыля і Калесьніка “Я з вогненнай вёскі”, у якім ілюстрацыйны матэрыял будзе дапоўнены новымі дакумэнтальнымі здымкамі, знойдзенымі ў бэрлінскіх архівах. У выдавецкім пляне — “Атлянты і карыятыды” Шамякіна. Хачу перакласьці аповесьць Пташнікава “Найдорф”, якую лічу адной з найлепшых у сучаснай беларускай літаратуры. Вабіць таксама Вольга Іпатава — аўтар высокай культуры і эрудыцыі. Досьвед перакладчыцкай работы спадзяюся выкарыстаць для апрацоўкі літаратуразнаўчага дасьледаваньня “Тыпалёгія стыляў сучаснай беларускай прозы”.

*Можа, яшчэ некалькі слоў аб тым, як ацэньваеце творчасьць беларускіх літаратараў Беласточчыны?*

Беларуская літаратура Беласточчыны таксама нам не чужая. Мяне як перакладчыка прозы асабліва цікавіць Яновіч. Яго трапныя мініятуры з глыбокім псыхалягічным зьместам пакідаюць вялікае ўражаньне. Магчыма, у недалёкай будучыні зможам апублікаваць у перакладзе на чэскую мову падборку мініятур Яновіча. На мой погляд, нештодзённай зьявай на беларускім парнасе ёсьць Бурш[6]. І ня толькі ў паэзіі, але і ў галіне мовы. Бурш паказаў,

---

[4] Гулак Яраслаў (1920—1999) — чэскі перакладнік з расейскай і нямецкай моў (творы Васіля Быкава перакладаў з расейскага перакладу). — *А.П.*

[5] Кабічэк Яраслаў (1931—1996) — чэскі перакладнік з славянскіх і іншых моў. — *А.П.*

што беларуская паэтычная мова ні ў чым не саступае лепшым узорам французскай паэзіі. Думаю, што аб усіх здабытках вашага літаратурнага асяродзьдзя мы яшчэ мала ведаем.

*Скажыце, калі ласка, на заканчэньне, што паўплывала на Вашу зацікаўленасьць беларускай літаратурай і яе папулярызацыяй у Чэхаславакіі?*

Мабыць, выпадковасьць, а дакладней — уражаньне, якое выклікаў у мяне верш Максіма Рыльскага[7] "Сябрам беларусам". Ад гэтага і пачалося...

*Друкуецца паводле:*
Ніва. 1976. 26 верасьня.

[6] Бурш Яша (нар. 1929) — беларускі паэт і мастак, жыве і працуе ў Варшаве. У 1964 г. выдаў зборнік вершаў "Прамень думкі" — *А.П.*

[7] Рыльскі Максім (1895—1964) — украінскі паэт, які пераклаў на ўкраінскую мову шмат вершаў беларускіх аўтараў. — *А.П.*

# Зроблена ў Польшчы

Пад такім дэвізам адбылася ў другой палавіне ліпеня ў Менску вялікая польская прамысловая выстаўка. Яна была ня толькі нагляднай дэманстрацыяй эканамічна–тэхнічнага прагрэсу ПНР з нагоды яе 35–годзьдзя, але і канкрэтнай гандлёвай прапановай польскай прамысловасьці, якая адрасавалася перш за ўсё народнай гаспадарцы Беларускай ССР.

Варта падкрэсьліць, што ва ўмовах няспыннага эканамічнага прагрэсу хутка ўзрастае значэньне Беларусі ў агульнасаюзным тавараабмене з заграніцай. Сёньня яна займае трэцяе месца ў замежным гандлі СССР (пасьля Расеі і Украіны). Вырабы беларускай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі экспартуюцца ў звыш 100 краін сьвету, сярод якіх найбольшым гандлёвым партнэрам зьяўляецца Польшча. Як паказваюць апошнія даныя, у мінулым годзе звыш 25% вартасьці экспарту БССР кіравалася ў Польшчу, што значна перавышае ўдзел ПНР у экспарце ўсяго СССР (10%).

Беларусь пастаўляе ў Польшчу шырокі асартымэнт прамысловых вырабаў, між іншым, калійныя ўгнаеньні (каля 2 млн. тон у год), электраэнэргію, нафтахімічныя вырабы, станкі, будаўнічыя матэрыялы, грузавікі, вялікія колькасьці халадзільнікаў “Мінск” і гадзіньнікаў “Луч”. Адначасова з Польшчы ў БССР пастаўляюцца значныя колькасьці прамысловага абсталяваньня (у тым ліку камплектныя заводы для хімічнай, цукровай і дрэваапрацоўчай прамысловасьці), каменны вугаль, шмат сельскагаспадарчых і будаўнічых машын, электратэхнічная і электронная апаратура. Вырабы шырокага ўжытку і іншыя.

Ува ўмовах узрастаючага эканамічнага патэнцыялу ПНР і БССР вывучэньне ўзаемных патрэбаў і магчымасьцяў зьяўляецца істотным фактарам далейшага разьвіцьця супрацоўніцтва. Для гэтага добрую нагоду прадстаўляла выстава “Зроблена ў Польшчы”, у рамках якой 36 польскіх зьнешнегандлёвых прадпрыемстваў паказвалі ўсё тое, што магло зацікавіць беларускую прамысловасьць. Цяжка пералічыць тыя тысячы экспанатаў, для разьмяшчэньня якіх спатрэбілася аж 14 тысяч квадратных мэтраў плошчы ў менскім палацы тэнісных кортаў і на суседніх пляцоўках непадалёк Паркавай магістралі. Тут звыш 250 тысяч менчукоў і гасьцей беларускай сталіцы на працягу двух тыдняў знаёміліся з польскімі будаўнічымі машынамі, сельскагаспадарчай тэхнікай, станкамі і аўтамабілямі, электронікай, хіміяй, вырабамі лёгкай прамысловасьці і інш.

Арганізатары выставы не забыліся і пра культуру. Польскае музыкальнае выдавецтва прапанавала тут значную калекцыю грамплясьцінак і нотаў, а *Ars Polona* — абсяжную экспазыцыю тэхнічнай, мастацкай і дзіцячай літаратуры, сярод якой увагу наведвальнікаў прыцягвала паліца з выдадзенымі ў Польшчы перакладамі беларускай літаратуры. Прыемна заўважыць, што ў яе склад увайшлі таксама М. Федароўскі[1] “Diabelskie skrzypce” ў перакладзе А. Баршчэўскага[2] і томік мініятур С. Яновіча “Zapomnieliska”[3].

Акрамя паказу экспанатаў, у рамках выставы адбылося некалькі важных мерапрыемстваў, зьвязаных тэматычна зь яе праграмай. Сярод іх асаблівай увагі заслугоўваюць два дзясяткі сымпозіюмаў, у час якіх польскія спэцыялісты абмяркоўвалі з сваімі беларускімі калегамі разнастайныя навукова–тэхнічныя пытаньні. Такія кан-

---

[1] Федароўскі Міхал (1853—1923) — польска–беларускі фальклярыст. — *А.П.*

[2] “Diabelskie szkrzypce” (“Д’яблава скрыпка”) — зборнік сабраных Міхалам Федароўскім беларускіх казак пад такой назвай у перакладзе Аляксандра Баршчэўскага быў выдадзены ў Варшаве ў 1973 г. — *А.П.*

[3] “Zapomnieliska” — зборнік лірычных мініятур Сакрата Яновіча пад такой назвай у перакладзе на польскую мову Я. Чопіка выйшаў ува Ўроцлаве ў 1978 г. — *А.П.*

такты спэцыялістаў часта становяцца зыходным пунктам ня толькі для гандлёвых пагадненьняў, але таксама для разьвіцьця каапэрацыйных сувязяў паміж заводамі або прамысловымі аб'яднаньнямі. Іншым цікавым мерапрыемствам быў конкурс, які праводзіла газэта "Советская Белоруссия" на тэму: "Што ведаеш аб Польшчы?" У ім удзельнічала звыш 1000 чытачоў. Урэшце нельга не ўпамянуць дзясяткі кантрактаў, якія польскія зьнешнегандлёвыя фірмы падпісалі з сваімі савецкімі партнэрамі.

Выставу "Зроблена ў Польшчы" наведалі кіраўнікі вярхоўных партыйных і дзяржаўных органаў БССР. Частымі яе гасьцьмі былі кіраўнікі гаспадарчых ведамстваў рэспублікі, заводаў і навукова–дасьледчых інстытутаў.

*Друкуецца паводле:*
Ніва. 1979. 2 верасьня.

# Гісторыя, невыгодная для ўсіх

**З д–рам Юр’ем Туронкам, аўтарам кнігі “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”, гутарыць Марак Зюлкоўскі.**

— *Што ў вашай біяграфіі зрабіла вырашальны ўплыў на тое, што вы заняліся дасьледаваньнем гісторыі Беларусі?*

— Я атрымаў эканамічную адукацыю ў 1953 годзе, больш за 30 гадоў працую ў часопісе “Rynki Zagraniczne“. Дык адкуль маё зацікаўленьне гісторыяй? Я патлумачу гэта такім адступленьнем. У сярэдзіне 70–х гадоў я быў на хімічнай выставе ў Маскве. На прэсавай канфэрэнцыі я пазнаёміўся з журналістам з... “Литературной газеты”[1]. Ён быў тэатральным крытыкам, таму я тым больш зьдзівіўся. Ён патлумачыў, што найгоршае — гэта руціна, што пасьля многіх гадоў працы яму ўжо хопіць толькі назвы п’есы і прозьвішчаў актораў. Яму ня трэба былоісьці ў тэатар, каб напісаць рэцэнзію. Ягоная рэдакцыя заўважыла гэтую зьяву і пасылала журналістаў знаёміцца з цалкам невядомымі ім галінамі дзейнасьці, каб аднавіць прывычку да інтэлектуальных высілкаў. Я прызнаў, што ён мае рацыю.

Маё зацікаўленьне гісторыяй пачалося даўно. Апошнім часам павялічылася. Перш як заняцца акупацыяй, я меў ужо досыць прыстойны, як на мае магчымасьці, даробак. Усё гэта вынікала з майго галоўнага зацікаўленьня жыцьцём Вацлава Іваноўскага. Народжаны пад Лідай у фальварку Лябёдка, ён меў колькіх братоў. Адзін зь іх стаў палякам, другі — літоўцам, а сам ён быў беларусам. Гэта былі выбары без аніякай ліпы. На зломе XIX і XX стагодзьдзяў людзі пачалі сур’ёзна задумвацца, адкуль яны бяруцца. Ліцьвін як спадкаемца Вялікага Княства Літоўскага — гэтага ўжо не хапала. Вацлаў загінуў у 1943 г., будучы бурмістрам Менску — а значыць, здраднікам. Яго аплявалі з усіх бакоў. Ён жа, будучы ў адміністрацыі акупацыйных уладаў, адначасна апекаваўся беларускай падпольнай арганізацыяй, якая супрацоўнічала з АК. На ягоную думку, беларускі інтарэс палягаў у пачатку перамоў з польскім бокам.

Я ўпершыню паказаў, што апроч даносаў і кровапраліцьця (у мініятурным маштабе ў параўнаньні з польска–ўкраінскімі стасункамі) былі таксама і добрыя падзеі.

На пачатку 80–х гадоў я пазнаёміўся з праф. Ласоўскім, які заахвоціў мяне да ўважлівага дасьледаваньня нямецкай акупацыі. Я супраціўляўся, маўляў, гэта тэма для цэлага інстытуту, бо трэба ўлічваць усе аспэкты жыцьця пад акупацыяй. Згадзіўся, калі праф. Ласоўскі запэўніў, што ён будзе мяне бараніць, калі ў працы будзе не хапаць, напрыклад, зацемаў пра садаводзтва.

Я ўзяўся за працу. Выйшла чыстая палітыка. Якраз у Беларусі яна была найцікавейшай. Пунктам гледжаньня Бэрліна была яго адсутнасьць. Паслалі Кубэ, які з глуздоў зьехаў у гэтым пытаньні. Кубэ палічыў сваёй задачай разьвіцьцё беларускай культуры. Гэта складала вялізарную праблему для дасьледнікаў. Кампэтэнтны гісторык зь Менску сказаў мне, што вельмі цяжка ў Менску займацца акупацыйнай гісторыяй. Кубэ падлягаў забыцьцю як вораг СССР. Але фактычна яго няма ў чым абвінаваціць. “Калі б у нас быў такі, як Кох у Ўкраіне, было б лягчэй пісаць”. Што да нацыянальных пытаньняў, Кубэ быў пазытыўнейшы, чым савецкая ўлада. Ён не ўхваляў злачынных спосабаў барацьбы з партызанкай.

Пасьля абароны доктарскай працы ў сьнежні 1986 году рукапіс атрымалі два вы-

[1] “Литературная газета” — найстарэйшая расейская штотыднёвая газэта, якая вядзе сваю гісторыю з 1830 г. У савецкія часы была афіцыйным органам Саюзу пісьменьнікаў СССР. — *А.П.*

давецтвы: PWN[2] і *Pojezierze*[3]. На той час не было ніякага канкрэтнага адказу, апроч улучэньня гэтай кнігі ў выдавецкі плян выдавецтва *Pojezierze* на 1993 год. Я пагадзіўся нават на гэта, развperжыўшы, як патрэбная гэтая кніжка ў Беларусі. Справа набыла іншы кірунак, калі на пачатку 1989 году мяне наведаў нейкі барадач і сказаў, што ягонае выдавецтва купляе кніжку ўсьляпую і выдасьць яе за паўгоду. Так і адбылося.

*— Дагэтулешняя распрацоўка праблемы, узьнятай у вашай кнізе, была надзвычай павярхоўнай, дарма што час другой сусьветнай вайны — прадмет сталага зацікаўленьня гісторыкаў. Чаму такая малая цікавасьць да гэтага "беларускага" адрэзку акупацыі?*

— Шмат людзей ня толькі ня ведаюць гэтых справаў, але й ня хочуць іх ведаць, прычым як зь беларускага, так і з польскага боку. І адныя і другія хочуць выступаць у ролі арханёлаў і не бяруць да ведама абвінавачаньняў у супрацы зь немцамі. Паводле маіх зьвестак, на эміграцыі (беларускай) гэтая кніжка ня мае шанцаў, бо яна надта выразна выходзіць за міт самароднага адраджэньня беларускай палітычнай думкі падчас вайны. Падобнае становішча з ацэнкай АК: зусім нядаўна Кораб–Жэбрык і Ц. Хлябоўскі заявілі, што ніякіх пагадненьняў зь немцамі не было. Тым часам Сьвіда — кіраўнік Навагрудзкай акругі АК — апублікаваў у гэтай справе адкрыты ліст, у якім прызнаў, што сапраўды супрацоўнічаў зь немцамі.

Аддзелы АК на гэтых абшарах былі вельмі слаба ўзброеныя. Пасьля вайсковага пакту Сікорскага–Сталіна (студзень 1941)[4] яны былі абавязаныя супрацоўнічаць з расейцамі. Я ведаю факты баявой супрацы АК з савецкай партызанкай. Пасьля выкрыцьця катынскага злачынства і ў выніку польска–савецкай спрэчкі ў гэтым пытаньні АК — дагэтуль саюзная армія — на загад Панамарэнкі стала варожай. У такой сытуацыі слаба ўзброеным аддзелам АК немцы прапанавалі зброю ўзамен на змаганьне з чырвонай партызанкай. АК ведала, што немцы раней ці пазьней сыдуць, а нам трэба будзе змагацца за ўсходнія крэсы. У канцавым выніку, ідэя патрыятычная. Супраца зь немцамі — гэта прыняцьце мэтаду ўласнага ўзмацненьня любой цаной. Лёндан крывіўся на гэта, аднак некаторыя аддзелы супрацоўнічалі зь немцамі да канца, а Віленская акцыя пацьвердзіла[5], што гэтыя кантакты былі тактычным пытаньнем.

Застаецца разабрацца з пытаньнем калябарацыі. Прымаючы вызначэньне, што гэта супраца з акупантам на шкоду ўласнаму народу, не магу сьцьвярджаць, што польскія ці беларускія нацыянальныя групы з гэтага пункту гледжаньня можна ацаніць адназначна нэгатыўна.

Аднак гэта далікатная справа, і я разумею, чаму па вайне ніхто не хацеў напісаць на гэтую тэму. Савецкая гістарыяграфія пісала пра гэта праз прызму разрыву кантактаў у 1943 годзе, польская, у сваю чаргу, да нядаўнага часу падпарадкоўвалася савецкаму ўзору. Гэта была гісторыя, невыгодная для ўсіх. Аднак найбольш гэтым цікавілася нямецкая выведка, найбольш дакумэнтаў можна знайсьці ў яе архіве.

У кнізе я паспрабаваў адкінуць міты на гэтую тэму.

*— Пра нямецкую акупацыю ў Беларусі расказвае вашая кніжка. Ці можна па-*

[2] PWN (Państwowe Wydawnictwo Naukowe) — Дзяржаўнае навуковае выдавецтва. — *А.С.*

[3] "Pojezierze" — выдавецтва ў Ольштыне. — *А.С.*

[4] Відаць, маецца на ўвазе пагадненьне паміж урадамі СССР і Польшчы аб аднаўленьні дыпляматычных стасункаў, узаемадапамозе ў барацьбе супраць Нямеччыны і аб фармаваньні на тэрыторыі СССР польскага войска, падпісанае 30 ліпеня 1941 г. У прыватнасьці, было прынятае рашэньне аб стварэньні арміі пад камандаваньнем Уладзіслава Андэрса на тэрыторыі СССР і пры судзеяньні польскага ўраду ў Лёндане. — *А.П.*

[5] Маецца на ўвазе акцыя Арміі Краёвай "Вострая Брама", якая праводзілася ў ліпені 1944 г. і мела на мэце вызваленьне ад немцаў Вільні ўласнымі сіламі перад прыходам савецкіх войскаў. Дзеяньні "акоўцаў" скончыліся няўдачай. — *А.П.*

*добным чынам сказаць пра савецкую акупацыю?*

— 20 месяцаў 1939—1941. Уваход Чырвонай Арміі на крэсы быў пазытыўна ўспрыняты беларусамі. Нават хадэцыя і беларускія нацыяналісты віталі злучэньне беларускіх земляў, разьдзеленых мяжой Рыскай дамовы. Скончыўся падзел краіны. Паўставала адзіная рэспубліка. З нацыянальнага пункту гледжаньня вымалёўваўся адзін супольны лёс для ўсёй нацыі. Рэакцыя насельніцтва была пазытыўная. Пасьля пачалося: калектывізацыя, дэпартацыі, Курапаты. Гэта выклікала раптоўную зьмену настрояў. У поглядах тых, хто ставіў на супрацу зь Нямеччынай, дамінавала перакананьне, што савецкая ўлада ня возьме пад увагу нацыянальнае пытаньне. Гэта было ўжо пасьля досьведу Курапатаў — пасьля вынішчэньня нацыянальных кадраў, калектывізацыі, разбурэньня нацыянальнай сьвядомасьці і выцясьненьня беларускай мовы на пэрыфэрыю грамадзкага ўжытку. На гэтую зьмену стаўленьня да савецкай улады паўплывала перакананьне ў трываласьці яе палітыкі, што пацьвердзіла паваенная практыка. Часам пра гэта кажуць так: “У паняволенай сталіцы ўсе школы ў Беларусі былі беларускія, у вызваленай — расейскія”.

Што да генацыду — сёньня я магу сьцьвярджаць, што савецкі паводле масавасьці ахвяраў значна перасягаў гітлераўскі. Гэтага дастаткова, каб паставіць знак роўнасьці паміж адным і другім таталітарызмам.

*— З улікам таго, што Беларусь знаходзіцца ў савецкай сфэры ўплыву, больш за тое, Масква разглядае яе як складовую частку імпэрыі, наколькі актуальнае пытаньне нямецкай акупацыі і якія яе вынікі трываюць да сёньня?*

— Пра гэта не гавораць, але гэта адчуваецца. Ускосным адказам можа быць ухвала пленуму камуністычнай партыі Беларусі ў лютым 1945 году, у якой прадугледжвалася палітычнае перавыхаваньне грамадзтва ў духу прышчапленьня нянавісьці да нямецкіх акупантаў. Апроч злачынных, былі і пазытыўныя аспэкты. Беларусь часта рабіла неспадзяванкі. Як фэнікс з попелу, 72 гады таму паўстала БНР. Эмігранты, гаворачы пра гэтую рэспубліку, абмінаюць пытаньне нямецкага ўплыву. Я ж магу сказаць: калі б не Фалькенгайм, творцы БНР сядзелі б пад арыштам, пакуль не астылі б.

Другая акупацыя з гэтага пункту гледжаньня была такой самай. У выніку спрыяльнай пазыцыі Кубэ нацыянальны рух меў магчымасьць узмацніцца.

*— Проста анэкдатычнымі сталі аповеды пра беларусаў, якія вітаюць чарговых акупантаў — сьпярша Саветы, пасьля немцаў — трыюмфальнымі брамамі, кветкамі. Які маштаб мела гэтая зьява, на зьмену якога лёсу разьлічвалі тыя, хто ставіў брамы?*

— Пытаньне фармальна лягічнае, але яно ўтрымлівае прыпушчэньне, што толькі беларусы ставілі брамы. А яны былі таксама і ў Ломжы і Граеве, дзе ніякіх беларусаў не было.

Я стараюся не ацэньваць грамадзкіх пазыцыяў. Сусед не згаджаецца з суседам, ёсьць спрэчкі ў сем’ях, што ж ужо казаць пра шматмільённае грамадзтва. Я ня бачу такой аднастайнай пазыцыі. Немцы ў 1943 (паліцыйны рапарт) пісалі, што ў Беларусі ёсьць дзьве скрайнія групы, адна чакае вяртаньня савецкай улады, другая выступае за немцаў, рэшта ж чакае і ставіць ветразі па ветру.

Што ж сказаць пра жаўнераў, якія перад вайной прысягалі Польшчы, у 1939 годзе апынуліся ў Чырвонай Арміі, пазьней у 1944 — у пранямецкай Беларускай краёвай абароне і ўрэшце зноў у Чырвонай Арміі.

Беласточчына зусім не была іншай. Шмат напісана аб тым, што ў 1944 і 1945 годзе беларусы з радасьцю віталі народную ўладу. Цяпер, калі камуністычны рэжым разваліўся, а “Салідарнасьць” прыйшла да ўлады, пачаліся ваганьні.

*— Ці ў польскіх палітычных канцэпцыях часоў другой сусьветнай вайны як–небудзь улічвалася беларускае пытаньне?*

— У гэтым кантэксьце беларусы мелі быць толькі нацыянальнай меншасьцю ў

польскай дзяржаве ў рыскіх межах. Польскі бок быў у саюзе з расейцамі. Таму ён не разглядаў ніякіх пытаньняў беларускай дзяржаўнасьці. Зрэшты, зыходзячы з вызначэньняў Рыскай дамовы, яны маглі гаварыць толькі пра насельніцтва, якое жыло на тэрыторыі, акрэсьленай гэтай дамовай.

У канцы 1943 і 1944 г. гэтая справа страціла актуальнасьць у выніку зьмены ваеннай канфігурацыі.

*— Чым патлумачыць адсутнасьць сярод палякаў сьведамасьці шматвяковай супольнасьці лёсаў палякаў і беларусаў?*

— Такой адсутнасьці няма ў стасунку да польска–літоўскай супольнасьці. Тым часам Літва была Вялікім Княствам, куды ўваходзілі і Літва, і Беларусь. Праваслаўныя Сапегі і Хадкевічы называлі сябе ліцьвінамі, як і бацька Іваноўскіх. Сёньня Вялікае Княства атаесамляецца зь Літвой. Гэта было няслушна і прыводзіць да памылковых ацэнак. Беларусы ў гісторыі таксама заўсёды лічыліся ліцьвінамі.

У XX ст. украінскі і беларускі народы апынуліся на нядобрым геапалітычным шляху. І Расея, і Польшча мелі прэтэнзіі на панаваньне на гэтых землях. Гэта сфармавала пэўны тып грамадзкага рэфлексу: калі ўзмацняўся расейскі націск, расьлі сымпатыі да Польшчы, і наадварот. Гэта працуе і сёньня і прысутнічае ў рэакцыях беларусаў у Менску і на Беласточчыне.

Падчас вайны я вучыўся ў Вільні сярод літоўцаў. Памятаю іх вялікую непрыхільнасьць да ўсяго польскага. Гэта было пытаньне вызваленьня ад польскага патэрналізму. У сярэдзіне семдзясятых я адведаў у Вільні старых прыяцеляў. Зь вялікім зьдзіўленьнем заўважыў зьмену стаўленьня да польскасьці, да Польшчы. “Слухай, — кажуць, — над намі цяпер расейская пагроза. У зьвязку з гэтым мы шукаем маральнай падтрымкі”. Тое ж самае я назіраў у Менску, асабліва цяпер, прыхільнае стаўленьне да Польшчы, і адначасна я бачу нарастаючыя канфлікты на Беласточчыне. Я прыходжу да высновы, што гэта натуральна на такім этнічным сутыку. Аднак я не магу зазначыць чагосьці іншага. Я ня надта веру, што гэтыя лялечкі на стале танчаць самі. Хацелася б зазірнуць пад стол, хто іх рухае.

Усе нам кажуць, што рэвалюцыя 1905 году так напалохала цара, што змусіла яго выдаць дэкрэт пра свабоду друку. Падчас дасьледаваньняў я зь зьдзіўленьнем выявіў, што царскі ўказ выйшаў раней за рэвалюцыю. Ён меў служыць нэўтралізацыі ўплываў ППС, якая ставіла на далучэньне беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў да супольнага змаганьня з царызмам. Такая пэрспэктыва магла быць для цара ня вельмі прыемнай. Ён ведаў, што свабода друку раней ці пазьней прывядзе да канфлікту з польскім патэрналізмам, палітычным, культурным і рэлігійным. Ён не памыліўся. У прынцыпе, гэтыя канфлікты выявіліся неўзабаве. Цяпер пачалася перабудова, нацыянальнае адраджэньне. І зноў была выцягнутая польская карта. Спрабавалі ў Беларусі. Ня выйшла, хоць становішча польскага школьніцтва ўсё яшчэ вельмі слабое. У Літве, у сваю чаргу, маем адкрыты канфлікт. Ува Ўкраіне і палякі, і ўкраінцы баяцца, як бы не паўтарыліся падзеі 1942—1947 гадоў.

Гэты канфлікт перанесьлі на Беласточчыну. Артыкул Семянякі “Пад рознымі крыжамі” і акцыя вакол яго ў “Кур’еры Падляскім”, на маю думку, пасуюць да гэтага сцэнару.

Усё гэта прыводзіць да сумных высноваў, што гэтыя нацыянальныя праблемы, без увагі на гістарычныя аргумэнты, можна разыгрываць для антаганізацыі.

*— Мяне таксама інтрыгуе зусім канкрэтнае пытаньне. Чаму вокладка вашай кнігі паўтарае латыскі сьцяг (чырвона–бела–чырвоны)*[6]*, а не беларускі (бел–чырвона–белы)?*

— У гэтым няма ніякай сымболікі. Графічна белыя краі выходзілі не найлепшым чынам. У 1943 годзе была тая самая праблема, калі кніжку пра Беларусь выдаваў

[6] М. Зюлкоўскі памыляецца: чырвона–бела–чырвоны сьцяг у аўстрыйцаў, а латыскі сцяг кармінава–бела–кармінавы, пры гэтым белая паласа вузейшая за кармінавыя. — *А.С.*

Энгельгарт[7]. Я не прыхільнік паказаў Пагоні і Ярылавага крыжа пры любой нагодзе. У Польшчы, урэшце, таксама нячаста паказваецца арол у кароне ці нацыянальныя колеры.

*— Што перадусім вы хацелі сказаць польскаму чытачу? Як успрымаецца вашая кніжка?*

— Перадусім я хацеў паказаць намаганьні беларускіх палітычных колаў давесьці сваю суб’ектнасьць, як яны нават у тых цяжкіх варунках імкнуліся да стварэньня ўласнай дзяржавы. Я таксама хацеў выкрыць дагэтулешнюю хлусьню савецкай гістарыяграфіі ў гэтай праблематыцы.

Нягледзячы на ўсе хібы, кніжка пачынае жыць. Прыняцьце пераўзыйшло мае спадзяваньні. Асабліва ў савецкай Беларусі. Ужо ўдалося даслаць частку накладу. Ну што ж, яны папросту няшмат ведаюць. Гэтая праблематыка адсутнічала, замоўчвалася. Усю акупацыю афіцыйна паказвалі выключна праз прызму барацьбы савецкай партызанкі з гітлераўскімі акупантамі. Сёньня, на шчасьце, гэта пачынае зьмяняцца. Вельмі зацікаўленая таксама эміграцыя. Напэўна, там зьявіцца якаясьці рэцэнзія.

*— Дзякую за размову.*

*Пераклад зроблены паводле:*
Tygodnik białostocki. 16.06.1990.

[7] Маецца на ўвазе кніга Эўгена фон Энгельгарта “Weissruthenien. Volk und Land”, выдадзеная ў 1943 г. у Бэрліне. — *А.П.*

# Праблема ўсходняй Беласточчыны

— *Як вы ацэньваеце вынікі перамоў міністра Скубішэўскага ў Менску?*

— Так звычайна адбываецца, што ўкладаньню сур'ёзнага гандлёвага кантракту паміж партнэрамі папярэднічаюць глыбокія дасьледаваньні сытуацыі і часта доўгія перамовы. Пагатоў гэта датычыць міждзяржаўных адносінаў, галоўным чынам з увагі на значна важнейшыя і больш складаныя палітычныя ўмовы. Як паказваюць паведамленьні варшаўскай прэсы, польскае міністэрства замежных справаў перадало беларускім уладам і прадстаўнікам апазыцыі праект супольнай дэклярацыі, разьлічваючы на яе лёгкае прыняцьце беларускім бокам. Гэтыя разьлікі пакульня спраўдзіліся, у выніку чаго паўстала рэдкая сытуацыя, якую радыйныя камэнтатары асьцярожна ацанілі як няўдачу польскай дыпляматыі. Абмінаючы сутнасныя аспэкты, выпадае задаць пытаньне, што ў гэтай справе зрабіў Генэральны кансулят РП у Менску і чаму ён не папярэдзіў міністра Кшыштафа Скубішэўскага пра негатоўнасьць міністра Пятра Краўчанкі[1] да падпісаньня такога дакумэнту?

— *Аднак падобны праект польска–ўкраінскай дэклярацыі быў прыняты ўкраінскім МЗС. Чым выкліканая такая вялікая розьніца пазыцыяў Кіева і Менску?*

— Падпісаньне дэклярацыі Украінай няшмат ёй каштавала. Як вядома, у выніку трагічных падзеяў падчас вайны і ў першыя паваенныя гады польска–ўкраінская дзяржаўная мяжа практычна стала мяжой этнічнай. Кажучы менш далікатна, праблема нацыянальных меншасьцяў на гэтым памежжы была разьвязаная хірургічным шляхам. Гэта аказалася балесным, але эфэктыўным. Сёньня гэтая праблема не абцяжарвае пэрспэктываў польска–ўкраінскай супрацы.

Польска–беларускія ж стасункі абцяжарвае праблема ўсходняй Беласточчыны, якая бадай упершыню была закранутая падчас перамоў у Менску. Гэта зрабіла вялікае ўражаньне на палякаў і беластоцкіх беларусаў, якія шмат гадоў бясплённа цешыліся ілюзіямі аб разьвязаньні іх палітычных, эканамічных і моўна–культурных праблемаў Варшавай. Цяпер такі шанец яны бачаць у Менску.

Ня ўсе ведаюць альбо хочуць ведаць, што этнічна беларуская Беласточчына ў 1944 годзе была вырваная з агульнабеларускага кантэксту і падараваная паваеннай Польшчы. Падараваная Сталіным без удзелу ўладаў Беларускай ССР. Таму я магу зразумець пазыцыю міністра Краўчанкі, які прапанаваў заключэньне дамовы паміж Беларусьсю і Польшчай, у якой, спадзявацьмемся, будуць талковыя і справядлівыя вызначэньні, якія будуць рэгуляваць як міждзяржаўныя стасункі, так і праблему ўсходняй Беласточчыны. Ясная рэч, гэта вымагае часу і дэталёвага дасьледаваньня.

— *Беларускія рэакцыі можна зразумець, аднак што вы думаеце пра польскія рэакцыі?*

— Яшчэ зарана для вычарпальнага і ўзважанага адказу. У Беластоку, натуральна, запанавалі эмоцыі, у Варшаве ж — шакаванае зьдзіўленьне. Гэта, як я мяркую, ёсьць вынікам шматгадовага ігнараваньня і разгляду *per non est* існаваньня беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы.

Больш рацыянальнымі і з гэтага гледзішча цікавымі ёсьць ацэнкі афіцыйных колаў і прэсы. Гэтак, прычыну фіяска перамоў у Менску міністар Скубішэўскі бачыць ня ў сутнасных умовах, але ў "слабасьці" беларускага партнэра, які патрабуе часу (напэўна, для дасягненьня сьпеласьці). Побач з гэтым вельмі "дыпляматычным" выказваньнем "Życie Warszawy"[2]

[1] Краўчанка Пятро (нар. 1950) — міністар замежных справаў Беларусі ў 1990—1994 г. — *Рэд.*

[2] "Życie Warszawy" ("Жыцьцё Варшавы") — польская штодзённая газэта, якая выходзіць з 1944 г. — *Рэд.*

(16.10.1990) зьмясьціла рэпартаж зь Менску Агнешкі Магдзяк–Мішэўскай. Аўтарка піша пра Беларусь як пра бастыён савецкага камунізму, пра яе фікцыйную, бо падараваную Крамлём, сувэрэннасьць і ўрэшце сьцьвярджае, што польска–беларускія стасункі яшчэ доўга будуць далёкімі ад партнэрскай мадэлі. Словам, як жа прыкра, што польскай дыпляматыі давялося прыніжацца да кантакту зь недасьпелымі беларусамі, сярод якіх ні камуністы, ні нацыяналісты не схацелі працягнуць рукі па польскую дапамогу. Ня ведаю, як гэтыя выказваньні былі ўспрынятыя ў Менску, але мяркую, што яны не павялічваюць польскага палітычнага капіталу на ўсходзе.

*Гутарыў Марак Зюлкоўскі.*

*Пераклад зроблены паводле:*
Plus. Białystok. 17.11.1990.

# Дзяржава павінна трымаць курс

*— Спадар Туронак, за апошнія гады ў беларускім друку зьявілася шмат публікацыяў, прысьвечаных праблемам веравызнаньня беларусаў і міжканфэсійных адносінаў. Чым, на Ваш погляд, гэта выклікана?*

— Я называю гэта працягам палемічнай літаратуры XVI—XVII стагодзьдзяў[1]; абмяркоўваюцца рэлігійныя пытаньні — рэлігійныя ўмоўна, бо тэалёгія ў іх практычна не закранаецца, абмяркоўваюцца толькі палітычны і грамадзкі аспэкты канфэсійнай прыналежнасьці. Узяць удзел у палеміцы давялося і мне. У зборніку “Скарыніч” быў апублікаваны мой артыкул “Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы”. Перад гэтым ён друкаваўся ў Польшчы, цяпер выходзіць у Рыме. Дарэчы, гэты матэрыял выклікаў вялікае незадавальненьне польскага боку, бо датычыў колькасьці каталіцкага насельніцтва Беларусі. Веравызнаньне ў Беларусі часта вызначала нацыянальнасьць. І ёсьць людзі, якія хочуць, каб католікаў было як найбольш, кажуць, іхняя колькасьць сягае 25 працэнтаў. Я зьвярнуўся да статыстыкі яшчэ царскага часу — 1897 году, вельмі падрабязнай, па паветах. Паводле тых зьвестак, на мяжы дваццатага стагодзьдзя ў Беларусі было толькі 14 працэнтаў каталіцкага насельніцтва. Але за час, які мінуў, каля 400 000 асобаў зь Беларусі выехала ў Польшчу, таму агульная колькасьць магла толькі зьменшыцца.

*— Вы лічыце, што спрэчкі вакол пытаньняў рэлігіі — гэта толькі імкненьне паставіць царкву на службу нацыянальнай справе?*

— Так. Але гэта нармальна. Так павінна быць. Паглядзіце, што было ў Польшчы: усе ўрады, нават камуністы пасьля вайны аднолькава ставіліся да ўсіх канфэсіяў. І ўсе ўлады былі пасьлядоўныя ў адной справе: усе канфэсіі павінны служыць Польшчы, яны павінны спрыяць нацыянальнай ідэі. І будзе абсалютна нармальна, калі гэтым напрамкам пойдуць у Беларусі.

*— Што можаце сказаць Вы як гісторык аб ролі, якую ў гісторыі Беларусі адыгралі праваслаўе і каталіцызм?*

— Мушу адзначыць дэструкцыйны ўплыў і аднаго і другога. Гэта несумненна. Вазьміце, прыкладам, XIX стагодзьдзе, шматлікія хрэстаматыі і кніжкі, што былі апублікаваны па–беларуску. Я не знаходжу там праваслаўных аўтараў. Усе, пачынаючы ад Рыпінскага[2] і канчаючы Багушэвічам, былі каталікі. Гэта дыскусійная справа, наколькі яны імкнуліся адрадзіць беларускую нацыю. Тое, што аўтары пісалі па–беларуску, яшчэ ня ўсё... Але з праваслаўнага боку мы гэтага ня бачым увогуле. Зерне было пасеяна якраз дзяячамі каталіцка–шляхецкага кірунку. Лічу, што іхняй памылкай было тое, што яны ня выпрацавалі палітычнай праграмы, якую аднолькава магла б успрыняць і каталіцкая меншасьць, і праваслаўная большасьць беларусаў.

Па сутнасьці, былі два кірункі: у адным рэчышчы — каталіцка–шляхецкая плынь, у другім — праваслаўны заходнерусізм. Паміж імі не было нічога агульнага, іх не яднала нават родная мова.

Цяпер, у канцы XX стагодзьдзя, сытуацыя прынцыпова не зьмянілася. Беларусь па–ранейшаму робіць выбар паміж польскім Касьцёлам і расейскай Царквой.

*— Але ж уніяты, уплыў якіх паступова пашыраецца, маюць выразна беларускую арыентацыю...*

— Я лічу, масавай зьявай уніяцтва ня стане. Але калі б паўстала дзесяць–двац-

[1] Маецца на ўвазе палеміка паміж прыхільнікамі і праціўнікамі царкоўнае уніі ў Рэчы Паспалітай. — *А.П.*

[2] Рыпінскі Аляксандар (1811—1900) — беларуска–польскі паэт, фальклярыст, графік і кнігавыдавец, аўтар фальклярыстычна–этнаграфічнага дасьледаваньня “Беларусь”. — *А.П.*

цаць уніяцкіх парафіяў, гэта мела б пазытыўны ўплыў на беларусізацыю праваслаўя. Гэта стала б каталізатарам беларусізацыі.

Іншая справа: чаму беларуская Праваслаўная царква не імкнецца да аўтакефаліі? Гэта справа ня толькі Царквы: чаму беларускі ўрад не імкнецца да аўтакефалізацыі БПЦ? Паглядзіце, што рабілася ў Польшчы пасьля першае сусьветнае вайны, калі Праваслаўная царква ў Польскай дзяржаве ўся падпарадкоўвалася Маскоўскаму патрыярхату. Урад рабіў вельмі многа, каб унезалежніць гэтую царкву на польскай тэрыторыі ад замежнага цэнтру. Улады не кранал царкоўных канонаў ці тэалёгіі, але што датычыць арганізацыі — тут усё мела вырашаць Варшава, а не Масква. І гэта адбылося, хаця зь цяжкасьцямі. Бо дзяржаўная незалежнасьць стварае інстытуцыянальную базу для аўтакефаліі. На мой погляд, гэтае пытаньне мусіць быць вырашана ў Беларусі. І без умяшальніцтва ўраду не абыйдзецца.

— *Месца нацыі ў дзяржаве?*

— Яна павінна займаць важнае месца. І ня можа быць інакш. Я разумею: трэба лічыцца з рэаліямі. Была праведзена, асабліва пасьля вайны, гэтая страшная русіфікацыя. Тут была сыстэма: ня толькі адсутнасьць школаў, але і адсутнасьць пэрспэктывы выкарыстаньня беларускай мовы. Падала грамадзкае значэньне мовы і зьмяншалася зацікаўленьне ёй у школах. І таму сёньня працэс аднаўленьня значнасьці беларускай мовы павінен таксама ісьці ня толькі зьнізу, праз арганізацыю клясаў і школаў, але і зьверху, праз пашырэньне ейнага ўжываньня ў дзяржаўных установах, сродках масавай інфармацыі. Па–беларуску павінен гаварыць урад.

— *Адраджэньне дзяржавы праз адраджэньне народу?*

— Гэта вельмі складана. Працэс павінен пачацца з адраджэньня элемэнтарных нацыянальных вартасьцяў, але гэта справа на доўгія гады.

— *Ці будзе спрыяць адраджэньню беларускасьці ўваход краіны ў сусьветную супольнасьць, а таксама разьвіцьцё ў краіне новых эканамічных стасункаў?*

— Рынкавая сыстэма не дапаможа — нацыянальная справа для яе абыякавая. Далей: некаторыя прапаведуюць ідэю адкрыцьця межаў, наданьня ім выключна адміністрацыйнага значэньня. У такой сытуацыі, у становішчы, у якім сёньня знаходзіцца беларуская культура, мова, гэта было б для іх зьявай абсалютна не карыснай. Вам патрэбна вырасьціць прынамсі адно пакаленьне да таго часу, як будуць адкрытыя межы.

— *Першаснасьць інтарэсаў народу ці дзяржавы?*

— Тут, у Польшчы, гэта адно паняцьце. Але ў Беларусі яны могуць не супадаць. Я не хачу даваць гатовых рэцэптаў. Папросту вы самі мусіце мець гэта на ўвазе.

— *Колькі ўжо напісана, колькі сказана пра неабходнасьць павышэньня сьвядомасьці нацыі... Але словы застаюцца словамі. Патрэбныя ўчынкі. Я не разумею, аб чым тут можна спрачацца? Зрабіць школы беларускімі? А можа насельніцтва не захоча? Ну і што? Грамадзянін дзяржавы павінен ведаць дзяржаўную мову, бо ён ёю будзе карыстацца. У гэтым аспэкце цікава прасачыць разьмежаваньне "ў вас" — "у нас"?*

— Я беларус, але я — грамадзянін Польшчы. Я ўпэўнены, што ў 70—80–я гады ніводзін, падкрэсьлю, ніводзін з маіх артыкулаў у вас ня быў бы апублікаваны. Значыць, што дасьледчыкі ў Польшчы, незалежна ад таго, якой яны былі нацыянальнасьці, заўсёды мелі большыя магчымасьці, чым дасьледчыкі на тэрыторыі БССР, таксама незалежна ад іхняга паходжаньня. Менавіта ў вас на пачатку 80–х гадоў усе мае працы траплялі ў спэцфонд. Гэты падзел мае выключна такое значэньне. А ўвогуле мая праца скіравана на памнажэньне здабыткаў і вартасьцяў агульнай беларускай навукі, таксама незалежна ад таго, на якой мове будуць напісаныя мае працы.

— *Што вы ўвогуле скажаце пра беларусаў у Польшчы?*

— Улічыце адно: тут мы — атожылак нацыі па–за межамі дзяржавы. 200—250

тысяч — гэта вельмі мала. Так, мы маем свае школы, выданьні, арганізацыі, але наколькі слабое ўсё гэта... І калі Беларусь ня здолее захаваць і абараніць сваю нацыянальную тоесамаснасьць, сваю дзяржаўную незалежнасьць, мы празь нейкі час будзем папросту асыміляваныя — гэта звычайная зьява для ня маючай нацыянальнай дзяржаўнасьці меншасьці. Цяпер беларуская дзяржава ствараецца. Але яна павінна працаваць па–дзяржаўнаму. І адны́мі зь першых трэба ўрэгуляваць дзяржаўна–рэлігійныя спрэчкі. А ўвогуле, я лічу, што сёньня гэтую палеміку трэба перажыць. Мы маўчалі дзясяткі гадоў, і яна павінна адбыцца ўжо таму. Іншая рэч, што гэта мае істотнае інтэлектуальнае значэньне. Няхай людзі спрачаюцца, знаходзяць аргумэнты і контрааргумэнты, выпрацоўваюць канцэпцыі — гэта ўсё пазытыўна. Але не спадзяюся, што сёньня, на парозе XXI стагодзьдзя, канфэсійная праблематыка будзе дамінаваць.

*Гутарку вёў Уладзімер Панада*

*Друкуецца паводле:*
Чырвоная змена. 1992. № 32.

# Дасьледчык акупацыі

## Кветкі ў рулях

*Вашае дзяцінства прыпала якраз на міжваенныя гады. Што Вам найбольш запомнілася з тых часоў?*

**Юры Туронак:** Зьмены ўлады. Нарадзіўся я 26 красавіка 1929 г. у мястэчку Дукшты Сьвянцянскага павету Віленскага ваяводзтва (цяпер гэта Ігналінскі раён Літвы). Аднак мястэчка не магу назваць сваёй радзімай. Бацька, Браніслаў, паходзіў зь Дзісеншчыны, а маці, Мар’яна, — зь Беласточчыны. У Дукштах сям’я пасялілася ў 1928 г., калі бацька атрымаў пасаду раённага лекара. Навокал Дукштаў пераважалі літоўскія вёскі, жылі й стараверы. У мястэчку больш за палову жыхароў складалі жыды, а астатнюю частку — літоўцы, палякі, расейцы–стараверы і вельмі мала беларусаў.

У верасьні 1939 г. у Дукшты прыйшла Чырвоная Армія, а ў канцы кастрычніка яны адыйшлі да Літвы. У чэрвені 1940 г. зноў прыйшла Чырвоная Армія. Праз год — немцы. У нашай хаце панавала беларуская атмасфэра — кнігі, часопісы, “візыты” (бацька быў дзеячом беларускага нацыянальна–вызвольнага руху), а характар вуліцы мяняўся ў залежнасьці ад пануючай улады. На пачатку лістапада 1939 г., калі Дукшты разам зь Вільняй адыйшлі да Літвы, аднавіліся заняткі ў школе, цяпер ужо літоўскай. І я перажыў немалы шок, калі даведаўся, што тры чвэрці маіх аднаклясьнікаў раптоўна “забыліся” польскую мову. Давялося і мне хуценька вучыць літоўскую.

Шторазу зь зьменай улады ў школе вывешвалі новыя партрэты: спачатку быў Пілсудзкі, потым — Сьмятона[1], за ім — Ленін, пасьля — Гітлер. Цікава было назіраць, як насельніцтва сустракала новую ўладу. У верасьні 1939 г. Чырвоную Армію віталі з хлебам і сольлю, з партрэтамі Леніна і нават Інтэрнацыяналам. Літоўскіх салдатаў сустракалі больш сьціпла. А немцаў у 1941 г. сустракалі з энтузіязмам. Якраз пачаліся арышты “ворагаў народу”, і з Дукштаў ужо адыйшлі два эшалёны ў Сібір. А трэці не пасьпеў, і немцы ў літаральным сэнсе яго вызвалілі.

*Ці розьнілася Вашае стаўленьне да нямецкай улады ад стаўленьня да ўсіх іншых?*

Мне ў 1941 г. было 12 гадоў, і мяне цікавілі ня лёзунгі, а толькі выгляд і паводзіны штораз іншага войска. Вайна для мяне пачалася не ў 1941 г., а ў 1939 г. У 1939—1942 г. я працягваў вучыцца ў Дукштанскай пачатковай школе, а ў 1942—1945 г. — у літоўскай гімназіі ў Вільні. Мяне вызвалілі ад аплаты за вучобу, жыў у інтэрнаце, там і харчаваўся. Голаду не адчуваў: акрамя інтэрнацкай сталоўкі меў прадуктовую картку, якую можна было рэалізаваць у віленскіх крамах. Вучыліся, хадзілі ў кіно, на танцы да дзяўчат. Палітычнымі падзеямі я амаль не цікавіўся, адно сачыў за рухам франтоў.

Першы дзень акупацыі Дукштаў я добра запомніў. Ішлі маладыя хлопцы, а насельніцтва сустракала іх кветкамі. Тыя жаўнеры ўтыркалі кветкі ў рулі аўтаматаў, так і йшлі па мястэчку. А ўвечары адзін жаўнер іграў на вуліцы на акардэоне, і каля яго сабралося багата местачкоўцаў. Падыйшоў і адзін старавер, у расшытай кашулі, зь велічэзнай барадой. Стаіць і слухае. Жаўнер кінуў позірк і зайграў “Матушку Волгу”. У старавера ажно сьлёзы пырснулі з вачэй.

А ў ліпені 1944 г. прыйшла савецкая ўлада. Памятаю, адзін танкіст узьлез на бочку і распавядаў нам пра нашыя пакуты пад нямецкай акупацыяй, што выклікала іранічнае зьдзіўленьне.

*Як Вы апынуліся пасьля вайны ў Беластоку?*

Мая маці вырашыла вярнуцца на Беласточчыну яшчэ ў 1938 г., калі памёр мой бацька, але пераехаць мы здолелі толькі пасьля выгнаньня немцаў. У Беластоку я вучыўся ў ліцэі. І вось выклікае мяне настаўнік гісторыі распавесьці пра Грунваль-

[1] Сьмятона Антанас (1874—1944) — прэзыдэнт Літвы ў 1919—1920 і 1926—1940 г. — *А.П.*

дзкую бітву. Я і распавёў, як вучылі ў літоўскай гімназіі: пра мужнага Вітаўта і Ягайлу, які ўвесь час маліўся. Калі я скончыў, уся кляса разам з настаўнікам рагатала. Я атрымаў двойку. Такім чынам, да дукштанска–віленскіх назіраньняў далучыўся яшчэ крытыцызм да "гістарычных ісьцінаў", фабрыкаваных прыхільнікамі "гістарычнай праўды". Гэты крытыцызм застаўся на ўсё жыцьцё.

## Хімія й гісторыя

*Ці гісторыя ёсьць Вашай спэцыяльнасьцю?*

Не. Атрымаўшы ў 1952 г. дыплём магістра эканамічных навук, я некалькі гадоў адпрацаваў на імпартна–экспартным прадпрыемстве хімічных вырабаў. Адначасова выкладаў на катэдры эканамічнай геаграфіі Вышэйшай школы плянаваньня і статыстыкі ў Варшаве. Першая праца была мэханічная, чыноўніцкая, а другая — казкі пра сталінскія пляны пераўтварэньня прыроды і да т.п. А мяне цікавіла сур'ёзная праца. І на пачатку 1956 г. я пакінуў тыя ўстановы й пайшоў працаваць у Польскую замежнагандлёвую палату, у межах якой неўзабаве была створаная газэта "Замежныя рынкі". У ейнай рэдакцыі адпрацаваў 40 гадоў, вывучаў каньюнктуру хімічных рынкаў. Надрукаваў шмат артыкулаў і распрацовак, нават выдаў кнігу "Польшча на міжнародным хімічным рынку" (1972). Шмат гадоў удзельнічаў як дэлегат ад Польшчы ў працы Камітэту хімічнай прамысловасьці Эўрапейскай эканамічнай камісіі ў Жэнэве, а таксама ў арганізацыі некалькіх гаспадарчых выставаў у розных краінах Эўропы, у тым ліку і ў Беларусі.

*Як хімік–эканаміст стаўся гісторыкам?*

У 1956 г. у Польшчы паўстала Беларускае грамадзка–культурнае таварыства. Я быў шмат гадоў старшынём яго Варшаўскага аддзяленьня, кіраўніком Навуковага гуртка таварыства. Тут і акрэсьлілася цікавасьць да гісторыі. Па–першае, хацелася высьветліць пытаньні, якія замоўчваліся ці фальсыфікаваліся паваеннай гістарыяграфіяй і публіцыстыкай. Таму й заняўся распрацоўкай гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне падчас нямецкай акупацыі, напісаў артыкул аб беларускай школе ў Варшаве (1942—1944) і дасьледаваньне "Беларускае пытаньне ў палітыцы Лёнданскага лягеру 1941—1944". У Інстытуце гісторыі Польскай акадэміі навук мне прапанавалі дысэртацыю "Беларусь пад нямецкай акупацыяй", за якую ўзяўся з ахвотай і зацікаўленьнем.

## Імглісты геаграфічны панятак

*У гісторыі другой сусьветнай багата недасьледаваных пытаньняў. Чаму Вашую ўвагу прыцягнула менавіта кнігавыдавецкая справа?*

Кнігадрук і выпуск пэрыядычных выданьняў былі найбольш істотным і вымяральным паказьнікам нацыянальнага руху.

Кнігавыдавецкая справа часу вайны ёсьць працягам маіх дасьледаваньняў несавецкай, ці, дакладней, недзяржаўнай, выдавецкай дзейнасьці ў першай палове XX ст. У параўнаньні з усімі суседнімі краінамі беларускія кнігі пачалі выдавацца позна, выходзілі марудна, пры сьціплым інтэлектуальным патэнцыяле творцаў і малым попыце чытачоў, што, у сваю чаргу, абумоўлівала іх наклады. Выпуск і распаўсюджаньне кніг — цікавае адлюстраваньне нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Можна гэтаму пытаньню прысьвяціць адмысловую публікацыю, абапіраючыся на вынікі маіх шматгадовых дасьледаваньняў, або перавыдаць мае працы ў адной кнізе. Адно баюся, што на гэта ня хопіць ні часу, ні сілаў.

*У зьвязку з кнігавыдавецкай дзейнасьцю, як Вы ацэньваеце значнасьць і сілу беларускага нацыянальнага руху падчас нямецкай акупацыі?*

Цяжка адказаць на гэтае пытаньне адным словам. У 30–я паход супраць беларускага нацыяналізму ў БССР паўплываў на абвастрэньне нацыянальнай палітыкі ўрадаў Польшчы і Латвіі. У выніку, напярэдадні другой сусьветнай вайны беларускае пытаньне было практычна незаўваж-

нае ў Эўропе. Калі ў першую сусьветную вайну для нямецкіх палітыкаў і гісторыкаў Беларусь была “невядомай краінай”, то праз 20 гадоў генэральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ ацэньваў яе ня больш як імглісты геаграфічны панятак.

У 1941 г. нямецкія цывільныя і ваенныя ўлады сустрэлі ў Беларусі парадаксальную пасіўнасьць і нацыянальную абыякавасьць мясцовага насельніцтва. Створаныя на пачатку акупацыі беларуская адміністрацыя і паліцыя мелі пераважна небеларускі характар і лёгка паддаваліся ўплыву савецкага ці польскага падпольля. Аднак стаўка Кубэ на беларускі нацыяналізм рабіла сваё, і зь вясны 1942 г. становішча пачало мяняцца. Гэтаму спрыяла беларуская адміністрацыя, прэстыж беларускай мовы як дзяржаўнай, дзейнасьць Беларускай народнай самапомачы, самааховы, Саюзу беларускай моладзі, Рады даверу і Беларускай цэнтральнай рады. Як сьведчыць архіўная дакумэнтацыя, прагрэс беларускага нацыяналізму непакоіў савецкае і польскае падпольле, якое крывава распраўлялася зь беларускімі дзеячамі. Адзнакай росту нацыянальнай сьвядомасьці ёсьць тое, што ў чэрвені 1944 г. дзясяткі тысяч жыхароў Беларусі выбралі незайздросны лёс выгнанцаў замест бальшавіцкага “вызваленьня”.

## Не калябарацыя

*У такім выпадку, ці правамоцны да беларускіх дзеячоў часоў вайны тэрмін “калябаранты”? І наколькі арыентацыя на Нямеччыну была на той час апраўданая?*

Калябарацыяй звычайна называюць супрацоўніцтва з ворагам на шкоду сваёй дзяржаве і народу. Пры такім разуменьні калябарацыя ня можа быць апраўданай, яна караецца як здрада радзіме. Асноўнай мэтай беларускіх нацыянальных дзеячоў было стварэньне перадумоў для аднаўленьня ў спрыяльны момант ліквідаванай бальшавікамі дзяржаўнасьці. Першачарговай задачай лічылася абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці народу, арганізацыя беларускай адміністрацыі і войска. Такія памкненьні былі непрымальныя для Савецкага Саюзу, яны ігнараваліся ягонымі хаўрусьнікамі — ЗША і Вялікай Брытаніяй. А таксама польскім эміграцыйным урадам, зацікаўленым у аднаўленьні Рыскай дамовы і ў падзеле Беларусі.

Спробы нацыянальных дзеячоў аднавіць незалежную дзяржаву, якая павінна была забясьпечыць інтарэсы беларускага народу, ніяк нельга лічыць калябарацыяй у вышэйакрэсьленым сэнсе. Іх стаўленьне да Нямеччыны можна трактаваць як нармальнае супрацоўніцтва ў галіне палітыкі. Такое супрацоўніцтва было ж прымальным для СССР у 1939—41 г., калі яно адпавядала яго інтарэсам.

*Дык у чым тады прычына настолькі рознага стаўленьня ў беларускай гістарыяграфіі да нацыянальнага руху часоў вайны?*

Тое, што ацэнкі бываюць розныя, — гэта нармальна. Такое права аўтараў. На падставе тых шматлікіх публікацыяў, якія атрымліваю, складваецца ўражаньне, што за апошняе дзесяцігодзьдзе беларуская гістарыяграфія зрабіла значны прагрэс у вывучэньні розных аспэктаў жыцьця пад нямецкай акупацыяй, у тым ліку і ў вывучэньні дзейнасьці нацыянальных арганізацыяў. Выяўляюцца і публікуюцца новыя факты, дакумэнты, апрацоўваюцца біяграфіі. Заўважаецца таксама, што стаўленьне гісторыкаў і публіцыстаў да дзеячоў той пары стала менш эмацыйным, а больш аргумэнтаваным, культурным. Нават у выпадку нэгатыўнай ацэнкі. На гэтым фоне бессэнсоўнае тое, што робіцца на замову. Бессэнсоўна ганьбаваць нацыянальную сымболіку толькі таму, што яна выкарыстоўвалася ў гады акупацыі. Сёньня над Крамлём лунае сьцяг, якім карысталіся ўласаўцы, і ніякі нармальны чалавек цяпер не аплёўвае таго сьцяга.

*Запісала Натальля Гардзіенка*

*Друкуецца паводле:*
Наша Ніва. 2002. № 5(100).

# Камэнтары

### Да першага выданьня

Дадзенае выданьне складаецца зь пяцёх разьдзелаў, тэксты ў якіх друкуюцца ў храналягічным парадку. У тых выпадках, калі аўтар грунтаваў свае дасьледаваньні на ранейшых распрацоўках, іх зьмест можа нязначна паўтарацца. Адбор тэкстаў для публікацыі быў ажыцьцёўлены асабіста аўтарам, які да таго ж сам перагледзеў першую карэктуру гэтай кнігі.

У кнігу ўвайшлі тыя беларусазнаўчыя дасьледаваньні аўтара, якія, на яго думку, маюць навуковую вартасьць. Не публікуюцца тыя тэксты, якія

— пазьней сталі структурнымі элемэнтамі кніг аўтара, напрыклад, артыкул “Czy sprawiedliwy w Sodomie?” (Znak. № 2—3(405—406). 1989. S. 114—129.);

— у вялікай меры супадаюць зь зьмешчанымі ў нашым выданьні тэкстамі, як “Stosunki polsko–białoruskie w okresie drugiej wojny światowej” (Znak. № 6 (409). 1989. S. 18—29) або інтэрвію “O braciach Iwanowskich. Z Jerzym Turonkiem rozmawia Marek J. Karp”. Znak. № 1—7 (386). S. 37—49. 1987;

— ёсьць кампіляцыямі на аснове ўперад выдадзеных публікацыяў аўтара, накшталт: Between Byzantium and Rome: On the Causes of Religious and Cultural Differentiation in Belarus // International Journal of Sociology. Vol. 31. № 3. Fall 2001. №. 3. P. 46—61. або Weisruthenien: Zweifrontenkrieg der Ideologien // Anpassung — Kollaboration — Widerstand: kollektive Reaktionen auf die Okkupation / Wolfgang Benz u.a. (Hrsg.). Berlin: Metropol, 1996. S. 191—198;

— ёсьць кароткімі рэплікамі ў дыскусіях на пэрыфэрыйныя навуковыя тэмы, як “Glosa do artykułu Jurija Kiturki”. (Гл. Кітурка Ю. Беларуская праблематыка ў творах лідара эндэцыі Рамана Дмоўскага (к. XIX — п. XX ст.) // Biuletyn Historii Pogranicza. 2000. № 1. S. 7—19);

— напісаныя ў суаўтарстве манаграфіі, як Garbiński J., Turonek J. Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. Słownik biograficzno–bibliograficzny. Warszawa: Polska Akademia Nauk, Instytut Slawistyki, 2003. LXXX, 519 s.

Назва кнігі — “Мадэрная гісторыя Беларусі” — паходзіць ад рэдактара. Яна была паклікана падкрэсьліць дзьве акалічнасьці: па–першае, бальшыня артыкулаў у кнізе храналягічна прысьвечана падзеям эпохі мадэрнасьці, перш за ўсё гісторыі мадэрнага беларускага нацыяналізму. Па–другое, асьветленая тут гісторыя Беларусі была разгледжаная з мадэрных пазыцыяў, г.зн. пры дапамозе навуковага інструмэнтара, апарату й мэтадалёгіі, прынятых цяпер у заходнім навуковым сьвеце.

Артыкулы, якія ў арыгінале былі напісаныя на польскай мове, пераклалі Валер Булгакаў, Марыя Мартысевіч, Ганна Пазюк, Алесь Пяткевіч і Марына Шода.

На зычэньне аўтара за аснову перакладу “Беларусі пад нямецкай акупацыяй” быў узяты пераклад, зроблены Валерыяй Ждановіч і апублікаваны ў 1993 г. менскім выдавецтвам “Беларусь”. Пры яго падрыхтоўцы да перадруку ў яго было ўнесена колькі тысяч паправак, найперш былі выпраўленыя грубыя стылёвыя і тэрміналягічныя памылкі (між іншым, перакладчыца ўсюды пераклала польскае *naród* як народ). Яго нельга назваць поўным: ён быў апублікаваны з выпаданьнем цэлых радкоў і сказаў, без уліку разьбіўкі арыгінальнага тэксту на абзацы й сказы і бяз строгай вэрыфікацыі імёнаў (так, Язэп Малецкі ператварыўся ў Юзафа Малецкага). У шэрагу фрагмэнтаў літаральны пераклад падмяняўся апісальна–інтэрпрэтацыйным. Выявілася таксама, што рэдактары ў нібыта лібэральным 1993 г. дазвалялі сабе ідэалягічна матываваныя праўкі арыгінальнага тэксту, як, напрыклад:

Другі і трэці сказы ў кнізе:

*Паводле некаторых аспэктаў, яна мала адрозьнівалася ад сытуацыі ў іншых краінах Эўропы. Гэта адносіцца галоўным чынам да нацысцкіх забойстваў па ідэалягічных матывах, г.зн. зьнішчэньне габрэяў, камуністаў і іншых палітычных праціўнікаў гітлерызму* (пераклад 1993 г.).

*Паводле некаторых аспэктаў, яна не адрозьнівалася ад сытуацыі ў іншых акупаваных краінах Эўропы. Гэта адносіцца галоўным чынам да нацысцкіх забойстваў па ідэалягічных матывах, г.зн. зьнішчэньня габрэяў і палітычных праціўнікаў гітлерызму* (арыгінал 1989 г.).

Апошні сказ у кнізе:

*Гэтай ацэнкі не мяняе факт нацысцкага генацыду, паколькі ня меншай была колькасьць ахвяр сталіншчыны* (пераклад 1993 г.).

*Гэтай ацэнкі не мяняе факт нацысцкага генацыду, бо колькасьць ахвяр НКВД у саміх толькі Курапатах пад Менскам не саступае памерам эсэсаўскіх злачынстваў падчас усіх карных акцыяў у Беларусі* (арыгінал 1989 г.).

Выданьне забясьпечана камэнтарамі, якія належаць Алесю Пашкевічу і Анатолю Сідарэвічу. Іх пераважная частка зьмешчана беспасярэдне ў тэксьце, рэшта, з тэхнічных прычынаў, пры яго канцы. У перакладных тэкстах шэраг цытатаў зь цяжкадаступных публікацыяў даецца ў адваротным перакладзе з польскай.

Дзе–нідзе стыль–рэдактар Раман Маладзяшын ажыццяўляў стылёвую праўку арыгінальных беларускамоўных тэкстаў, якая спэцыяльна не апісваецца ў камэнтарах. Разам з тым, шэраг аўтарскіх напісаньняў (“рускі” ў значэньні “расейскі”, “існаваўшы” ў значэньні “існы” і г.д.) быў захаваны.

Гэтая кніга адрасавана тром аўдыторыям чытачоў. Першая складаецца з вучняў і настаўнікаў сярэдніх школаў, студэнтаў і выкладнікаў ВНУ. Яны знойдуць тут ня толькі веды пра факты, падзеі і асобы, якія не фігуруюць у падручніках для сярэдняй і вышэйшай школы, а таксама іх арыгінальнае тлумачэньне. Другую аўдыторыю складае інтэлігенцыя, якая хоча ведаць гісторыю, якую не вывучалі ў савецкай і дагэтуль не вывучаюць у цяперашняй школе. Напасьледак, апошнюю аўдыторыю складаюць тыя гісторыкі, якія, ня маючы доступу да сучаснай заходняй літаратуры і не валодаючы замежнымі мовамі, не знаёмыя з сучаснымі дасьледаваньнямі беларускай гісторыі. Кніга забясьпечана навуковым апаратам, які дазволіць ім зьвярнуцца беспасярэдне да крыніцаў і фактаў.

Спадзяюся, што знаёмства з новымі інтэрпрэтацыямі беларускай гісторыі паспрыяе сьцьвярджэньню нармальнасьці беларушчыны і беларускага нацыяналізму. Для беларускага грамадзтва, якое так доўга было пазбаўлена права на сваю культурную, навуковую і палітычную памяць, гэты момант мае аб’ектыўную вартасьць.

**Да другога выданьня**

Так сталася, што першае выданьне было падрыхтаванае на скорую руку, і ў ім засталіся шматлікія артаграфічныя і рэдактарскія памылкі, што выклікала горкае расчараваньне самога аўтара Юр’я Туронка.

У перавыданьне было ўнесена больш за 4 тысячы правак. Між іншым па магчымасьці выпраўленыя цытаты (у выпадку, калі ў першым выданьні яны даваліся ў адваротным перакладзе праз польскую мову), усе выяўленыя рэдактарскія памылкі, праведзеная правапісная ўніфікацыя, праверана разьбіўка тэкстаў на абзацы.

Зноскі, абазначаныя зорачкай (*), азначаюць, што яны былі перастаўленыя з канца кнігі наперад. Яны былі пазначаныя так, каб не парушаць ужо існуючую скразную нумарацыю. Ня ўсе зноскі былі перанесеныя. Калі не было адпаведнай тэхнічнай магчымасьці, зноскі, якія тлумачаць адныя і тыя ж рэаліі ў розных месцах кнігі, могуць стаяць у яе канцы.

Быў расшыраны і дапоўнены іменны паказьнік.

Частку ілюстрацыяў з тэхнічных прычынаў давялося выпусьціць. Ілюстрацыі расстаўленыя ў храналягічным парадку.

Шэраг нематываваных лексычных і стылёвых правак пры перавыданьні быў скасаваны на карысьць арыгінальных аўтарскіх напісаньняў (*зродны брат — дваюрадны брат* і пад.)

Удакладнены правапіс матэрыялаў на польскай, ангельскай і нямецкай мовах.

Некаторыя зноскі былі ўведзеныя ўпершыню.

Цытаты, большыя за тры–чатыры сказы, былі аформленыя спэцыяльным стылем.

У зносках і бібліяграфіі апісаньне выданьняў па магчымасьці даецца арыгінальным правапісам.

Мяркуючы зь першага выданьня, кнізе наканаваная шчасьлівы лёс. Яна спаткалася з дужа цёплым прыёмам чытачоў. Спадзяюся, што гэтае перавыданьне таксама не пакіне аматараў беларускай гісторыі абыякавымі.

*Валер Булгакаў*

С. 14—15. …*Яны былі па сутнасьці адзінай крыніцай інфармацыі, у выніку чаго адыгралі вырашальную ролю ў фармаваньні нашых ведаў пра Івана Луцкевіча.* — Аляксандра Бэргман у сваім артыкуле адносна гэтага пісала:

> Туронак моцна перабольшвае, калі сьцьвярджае, што пра дзейнасьць Івана Луцкевіча засталіся толькі запісы яго брата Антона Луцкевіча. Нельга ж абысьці тое, што напісаў пра І. Луцкевіча ў 1920 годзе Максім Гарэцкі. Іменна тое, што гэты выдатны гісторык беларускай літаратуры, які быў асабіста і блізка знаёмы з Іванам з 1912 году, запісаў пра яго ў “Гісторыі беларускай літаратуры”, у разьдзеле “Нашаніўская пара”, на 134 старонцы:
>
> Ян Луцкевіч (1881—1919) — віленскі археолёг, родам з Менска, быў адным з самых відных дзяячоў нашаніўскае пары. Як выбітная культурная сіла ў адраджэньні і палітычны правадыр такога руху, дзе разьвіцьцё нацыянальнай літаратуры было грунтам усёй працы, Ян Луцкевіч, хоць сам блізка што і не пісаў, зрабіў тым часам вялікую работу ў гісторыі нашаніўскай літаратуры, быўшы ініцыятарам «Нашае Долі» і «Нашае Нівы», дабыўшы кошты на друкаваньне, гуртуючы да сябе людзей слова і жывучы зь імі адным жыцьцём. У гісторыі ж адраджэньня наогул Я. Луцкевіч мае значэньне непараўнавана важнейшае — беларускаму народу адказаў ён багаты нацыянальны музэй, які зь вялікаю пільнасьцю і працаю зьбіраў праз усё жыцьцё. — *А. П.*

С. 15. …*непрызнаваньня ў той час “не сваёй” “Нашай долі”.* — А.Бэргман выказвалася наконт гэтых заўвагаў Аўтара наступным чынам:

> Туронак засьлеплены намаганьнямі падкрэсьліць свае «сэнсацыйныя адкрыцьці» і вылівае, як кажуць, з вадою само дзіця. Таму яго цьверджаньні адносна падрабязнасьцяў — магчыма, што несьвядома — маюць характар агульнага аспрэчваньня выдатнай, інсьпіруючай ролі Івана Луцкевіча ў беларускім адраджэнскім руху. Узьнікае ўражаньне, што артыкул А. Каваля паслужыў яму нагодай, каб выказаць свае погляды на розныя справы, каб прыгадаць, што даўно пара сур’ёзна заняцца вывучэньнем гісторыі Беларускай сацыялістычнай грамады, раскрыць біяграфіі яе дзяячоў. — *А. П.*

С. 142. …*як і ў гучным выпадку Шаптыцкіх.* — падобная з Іваноўскімі сытуацыя склалася і ў сям’і Шаптыцкіх ува Ўсходняй Галіччыне, дзе этнасацыяльная структура насельніцтва нагадвала беларускую. Родныя браты Станіслаў і Раман (1865—1944) Шаптыцкія абралі сабе розныя шляхі. Станіслаў стаў польскім генэралам і ў 1919—1920 г. актыўна змагаўся за незалежнасьць Польскае дзяржавы, а Раман выбраў шлях грэка–каталіцкага сьвятара, стаўшы ў 1901 г. мітрапалітам (пад імем Андрэй) і фактычна духоўным лідэрам галіцкіх украінцаў. — *А.П.*

С. 143. …*накшталт Рэя і Каханоўскага*… — Рэй Мікалай (1505—1569) — польскі пісьменьнік. Каханоўскі Ян (1530—1584) — польскі паэт. Абодва яны лічацца пачы-

нальнікамі польскай літаратуры, абапертай на нацыянальным грунце. — *А.П.*

С. 144. ...*скасаваны травеньскай канстытуцыяй 1791 г....* — у тэксьце Канстытуцыі 1791 г. ніводнага разу наўпрост ня згадвалася Вялікае Княства Літоўскае. Аднак у ёй прысутнічалі ўскосныя згадкі, як, напрыклад, выразы "ў дзяржавах Рэчы Паспалітай", "да дзяржаваў Рэчы Паспалітай" і г.д. Таму некаторыя аўтарытэтныя дасьледчыкі лічаць, што Канстытуцыя не касавала дзяржаўна–праўнай асобнасьці Вялікага Княства Літоўскага, а проста не кранала гэтай праблемы. А 20 кастрычніка 1791 г. сэнатарамі і пасламі ад Вялікага Княства Літоўскага была прынятая асобная пастанова — "Узаемнае заручэньне абодвух народаў", якое замацавала фэдэрацыйную аснову Рэчы Паспалітай як палітычны дуалізм. Прыняты дакумэнт сьцьвярджаў, што Вялікае Княства Літоўскае павінна мець "такую ж колькасьць міністраў і нацыянальных пасадаў і з такімі ж тытуламі і пастановамі, як і Карона". — *А.П.*

С. 144. ...*дамова зь Пятром I 1703 г.* — маецца на ўвазе абвяшчэньне генэральнай канфэдэрацыяй шляхты ВКЛ саюзу з Расеяй увесну 1703 г. Сама ж дамова зь Пятром I, паводле якой апошні абяцаў ваенную і грашовую дапамогу ВКЛ, была падпісаная ў 1702 г. Прадстаўнікі шляхты рашыліся на заключэньне гэтай дамовы, імкнучыся атрымаць падтрымку Расеі ў ходзе ўнутрыпалітычнай барацьбы з магнацкім родам Сапегаў, якая набыла характар грамадзянскай вайны. — *А.П.*

С. 152. ...*Уладзіслава Татаркевіча, Тадэвуша Катарбінскага, Марцэля Гандэльсмана, Казімежа Саснкоўскага альбо біскупа Зыгмунта Лазінскага.* — Татаркевіч Уладзіслаў (1886—1980) — польскі філёзаф і гісторык філязофіі, прафэсар шэрагу польскіх і эўрапейскіх унівэрсытэтаў; Катарбінскі Тадэвуш (1886—1981) — вядомы польскі філёзаф, лёгік, этык, аўтар шэрагу філязофскіх і этычных канцэпцыяў; Гандэльсман Марцэлі (1882—1945) — польскі гісторык, дасьледаваў гісторыю Польшчы сярэдніх вякоў і новага часу; Саснкоўскі Казімеж (1885—1969) — польскі палітычны і вайсковы дзяяч, адзін з арганізатараў польскага войска. У 1920–я г. быў вайсковым міністрам Польшчы, падчас другой сусьветнай вайны ў 1943—1944 г. быў галоўнакамандуючым польскіх узброеных сілаў; Лазінскі Зыгмунт (1870—1932) — рэлігійны дзяяч, з 1917 г. менскі, з 1925 г. — пінскі каталіцкі біскуп. — *А.П.*

С. 154. ...*аднак не закранае мясцовых паноў.* — гэтыя паны, мабыць, добра адчувалі сваю несумяшчальнасьць з Каліноўскім, калі дамагліся адхіленьня яго ад кіраўніцтва паўстаньнем. Тут трэба адзначыць, што і канфлікт Каліноўскага зь "бязмозглай" Варшавай "грунтаваўся выключна на розьніцы падыходу да сацыяльнае праблемы". Гэты канфлікт — і пра гэта піша Ю. Туронак — "выявіўся ня ў сфэры дзяржаўнага сэпаратызму беларускага, а ў сфэры арганізацыйнага ўнезалежненьня паўстанцкага руху на Беларусі ад "белых варшавякаў". З пэўным правам Каліноўскага можна "залічыць... да лічбы прадстаўнікоў беларускага аўтанамізму — у Польскай дзяржаве" (усе тры цытаты ўзятыя з: Луцкевіч А. Нарадавольцы–беларусы і іх орган "Гомон". К 50–лецьцю выхаду "Гомона". ЦБ Літ. АН: ф. 21, спр. 339). — *А.С.*

С. 161. ...*і разам з Сабінай наведвала курсы Лесгафта.* — маюцца на ўвазе Курсы выхаваццелек і кіраўнічак фізычнай адукацыі, заснаваныя ў Пецярбургу ў 1896 г. вядомым расейскім анатамам і пэдагогам П.Ф. Лесгафтам (1837—1909). — *А.П.*

С. 173. ...*адрозьніць беларускую лацінку ад польскага алфавіту.* — гэтыя графічныя знакі захаваліся ў беларускай лацінцы да сёньняшняга дня. Наагул жа і ў пазьнейшыя гады рабіліся спробы наданьня беларускаму правапісу, як лацінскаму, так і кірылічнаму, большай адметнасьці ў параўнаньні з польскім і расейскім. Так, у 1930–х г. менавіта з гэтай мэтай заходне-

беларускія дзяячы сталі ўжываць пры пісаньні лацінкай літару “v” замест “w”. У 1920–х г. Я. Станкевіч прапаноўваў увесьці ў беларускі кірылічны альфабэт літару “k” замест “к”. — *А.П.*

С. 175. *...імкненьні БСГ і Літоўскай сацыял–дэмакратычнай партыі...* — Літоўская сацыял–дэмакратычная партыя (пасьля 1905 г. — Сацыял–дэмакратычная партыя Літвы) узьнікла ў красавіку 1896 г. у Вільні. Акрамя сацыялістычных лёзунгаў, высоўвала патрабаваньні нацыянальнага вызваленьня. — *А.П.*

С. 184. *...зважаючы на сваё службовае становішча...* — маецца на ўвазе праца Б. Эпімах–Шыпілы ў бібліятэцы Пецярбурскага ўнівэрсытэту. — *А.П.*

С. 195. *...выхадцы з Гарадзенскай і Віленскай губэрняў.* — паводле Яўгена Міраловіча, у тыя гады з Заходняй Беларусі выехалі 1 млн. 400 тыс. чалавек (Бежанства 1915 года. Беласток, 2000. С. 8). — *А.П.*

С. 199. *...смаленскімі інтэрнацыяналістамі.* — маюцца на ўвазе дзяячы Абласнога выканаўчага камітэту Заходняй вобласьці і фронту (Аблвыканкамзаху), рэзыдэнцыя якога знаходзілася ў Смаленску. — *А.П.*

С. 201. *...прыйшоў кансэрватар Раман Скірмунт...* — рашэньне аб стварэньні новага Народнага сакратарыяту БНР на чале з Р. Скірмунтам было прынята ў пачатку траўня 1918 г. Аднак гэты ўрад так і ня здолеў рэальна прыступіць да выкананьня сваіх абавязкаў. 22 ліпеня 1918 г. быў зацьверджаны новы кабінэт на чале зь Янкам Серадой, які прыняў паўнамоцтвы непасрэдна ад Народнага сакратарыяту на чале з Варонкам. — *А.П.*

С. 205. *...стварэньне Часовага Беларускага нацыянальнага камітэту...* — Часовы Беларускі нацыянальны камітэт быў створаны ў Менску 10 жніўня 1919 г. Кузьма Цярэшчанка стаў ягоным старшынём толькі 17 кастрычніка 1919 г., а да гэтага яго ўзначальваў Аляксандар Прушынскі (Алесь Гарун). — *А.П.*

С. 205. *...можна атрымаць з рук Польшчы.* — нягледзячы на тое, што беларускія дзяячы ў той час сапраўды публічна выказваліся ў падтрымку Пілсудзкага, нельга аднaзначна сьцьвярджаць, што яны безаглядна паверылі яго абяцаньням. Паводзіны беларусаў у значнай ступені вызначаліся тагачаснай палітычнай каньюнктурай. Добра характарызуе становішча ліст аднаго з найактыўнейшых у той час беларускіх дзяячоў Антона Аўсяніка да Антона Луцкевіча:

> З палякамі ... дагаварыліся, каб яны ... далі 1 мільён марак. Усё гэта добра, але ці добра мы робім, што бяром ад іх грошы тады, калі нашыя адносіны яшчэ не выясьненыя... Што рабіць, як трымацца з палякамі?.. Думаю, што з палякамі трэба абавязкова зараз жа згаварыцца аб нашай нацыянальнай арміі... Можна зь імі гаварыць і аб фэдэрацыі, — трэ ісьці на кампрамісы, памятаючы адно — усё мы робім для незалежнасьці Беларусі. Камень за пазухай трэба трымаць...

Сам жа Луцкевіч, паводле пазьнейшага сьведчаньня Б. Тарашкевіча, ацэньваў становішча такім чынам, што

> бальшавікі ў Расеі ўладу не ўтрымаюць, што ў рэшце рэшт пераможа чорная рэакцыя, а ў адзінай непадзельнай Расеі калчакоў і дзянікіных ня будзе нават і мовы пра цярпімасьць да беларускага нацыянальнага руху, што хоць і нельга верыць адозьве Пілсудзкага, аднак, чым далей палякі прасунуцца на ўсход, тым лепш і для беларусаў, таму што вымушаныя будуць ісьці на саступкі... нарэшце, пры канчатковым усталяваньні межаў на ўсходзе вырашальную ролю будуць адыгрываць вялікія дзяржавы. — *А.П.*

С. 210. *...з супольным краёвым соймам у Вільні.* — гэта была карыкатура на канцэпцыю Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага 1915—1916 г., у якой ніякай польскай тэрыторыі не прадугледжвалася. — *А.С.*

С. 285. *...былі ўзгодненыя яе праграм-*

*ныя палажэньні і арганізацыйная структура.* — Гданьская канфэрэнцыя сталася толькі першым крокам да стварэньня Беларускай сялянска–работніцкае грамады. На ёй сапраўды абмяркоўваліся пытаньні будучай праграмы і арганізацыйнай структуры БСРГ, але канчатковага рашэньня тады прынята не было. Першы праект праграмы БСРГ мала розьніўся ад праграмы кампартыі і таму быў адхілены. Канчатковы праект быў падрыхтаваны Браніславам Тарашкевічам і прыняты толькі 12 траўня 1926 г. Пытаньне ж аб характары Грамады як легальнай арганізацыі абмяркоўвалася падчас III канфэрэнцыі КПЗБ у студзені 1926 г. Там было прынята рашэньне, што БСРГ стане не нацыянальнай беларускай, а тэрытарыяльнай арганізацыяй — г. зн. адкрытай для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, якія жылі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. — *А. П.*

С. 286. …*Увесну 1926 г. пры яе вызначальным удзеле была створаная новая палітычная партыя — Беларускі сялянскі саюз.* — Беларускі сялянскі саюз быў заснаваны пасламі польскага сойму Фабіянам Ярэмічам і Васілём Рагулем яшчэ ў лістападзе 1925 г. Вясной (дакладна — сакавіком) 1926 г. датуецца толькі дасягненьне паразуменьня лідэраў БСС зь беларускімі хадэкамі аб сумеснай палітычнай дзейнасьці. — *А. П.*

*С. 287. …выдаўшы ў міжваенную пару ўсяго 3 кнігі на беларускай мове.* — Выдавецкую дзейнасьць КПП і КПЗБ Аўтар ацаніў залішне сьціпла. Насамрэч камуністычных выданьняў на беларускай мове ў міжваеннай Польшчы было выдадзена значна больш за 3. Пра гэта сьведчаць, прынамсі, нявыкарыстаныя аўтарам пры падрыхтоўцы сваёй працы бібліяграфічныя дадаткі да “Інфармацыйных бюлетэняў Камісіі па вывучэньні Заходняй Беларусі пры Беларускай акадэміі навук”, што выдаваліся ў 1930–я г., у нумарах якіх за 1934—1935 г. ёсьць згадкі, напрыклад, пра наступныя беларускамоўныя выданьні:

**1933**

Кнорын В. Барацьба за завяваньне рабочай моладзі (Прамова на Пленуме ВК КІМ 22 сьнежня 1932 г.). — Вільня, 1933.

Новыя зрухі ў сітуацыі і завастрэнне класавых баёў у Польшчы (рэзалюцыя ЦК КПП). — Вільня, 1933.

Супроць імпэрыялістычнай вайны. — Вільня, 1933.

VI зьезд КПП. — Вільня, 1933.

Эмко. Пытаньне камсамола Заходняй Беларусі. — Вільня: Выдан. ЦК КСМ ЗБ, 1933.

**1934**

Варановіч Насця. Заможнае жыццё калгаснікаў у большавіцкіх калгасах. — Вільня, 1934. — 31 с.

**1935**

Аб калгасным статуце заможнага і культурнага жыцця. — Вільня, 1935. — 48 с.

Да VII Конгрэса Комінтэрна. Ад развальваючайся стабілізацыі да другога тура рэволюцый і войн. — Вільня, 1935. — 55 ст.

Дзімітроў Г. Наступленне фашызма і задачы Комуністычнага Інтэрнацыянала ў барацьбе за адзінства рабочага класа супроць фашызма. — Вільня, 1935. — 152 с.

За шырокі народны фронт працоўнага маладога пакалення Заходняй Беларусі. — Вільня, 1935. — 22 с.

Ленскі Ю. За супроць–фашысцкі народны фронт у Польшчы. — Вільня, 1935. — 48 с.

Рэзалюцыі VII сусветнага кангрэса Комуністычнага Інтэрнацыянала. — Вільня, 1935. — 46 с.

Несумненна, такіх камуністычных выданьняў можна выявіць куды болей (сярод іншага іх рэклямаваньне рабілася і ў афіцыйным пэрыёдыку КПЗБ “Бальшавік”). Пераважная большасьць тэкстаў паралельна выдавалася і на іншых мовах — польскай, расейскай, украінскай, ідыш. Належыць таксама адзначыць тое, што, нягледзячы на пазначэньне Вільні ў якасьці месца выданьня, насамрэч згаданыя брашуры зь сярэдзіны 1920–х г. выдаваліся ў Менску і на тэрыторыю Заходняй Беларусі дас-

таўляліся нелегальным шляхам. Пра гэта адкрыта пісаў у выразанай савецкай цэнзурай частцы сваіх мэмуараў “Дела и люди КПЗБ” вядомы заходнебеларускі камуністычны дзяяч Мікалай Арэхва:

> Выданьні менскай рэдакцыі [КПЗБ] пазначаліся: «Выдавецтва ЦК КПЗБ. Вільня». Усе яны выходзілі на тонкай, мяккай, так званай рысавай паперы, адмыслова купленай за мяжой. Брашуры аб’ёмам былі маленькія, вагой лёгкія і ўтрымлівалі шмат тэксту. Распаўсюджваць, хаваць і захоўваць такія выданьні было лягчэй, чым тыя, якія выдаваліся на простай цьвёрдай паперы.

Акрамя таго, Арэхва сьведчыў, што “асобныя брашуры для канспірацыі маскіраваліся бяскрыўднымі назвамі. Напрыклад: Зборнік задач па фізыцы для 8 — 10 кляс” (цытуецца паводле: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусі. Ф. 4683. Воп. 3. Спр. 1123. А. 162—163).

Факт выданьня гэтых брашур не на тэрыторыі Польшчы мог бы стаць падставай для неўключэньня іх Аўтарам у агульны сьпіс, па аналёгіі з брашурамі зь фіктыўнымі выходнымі зьвесткамі, выдадзенымі беларускімі эсэрамі ў пачатку 1920–х г. Аднак у такім выпадку неапраўданае фігураваньне ў сьпісе кніжак А.Гарадоцкага “Як Беларуская Хадэцыя гандлюе крывёю рабочых і сялян” і А.Віленчука “Супраць расправы акупантаў над Б. Тарашкевічам” — іх выданьне наўрад ці адбывалася ў месцы, адрозным ад астатняй камуністычнай літаратуры. — *А. П.*

С. 287. ...*выдавецкая дзейнасьць групы Луцкевіча пачала імкліва занепадаць.* — Нягледзячы на гэта, уплыў актыўнай выдавецкай дзейнасьці Луцкевіча ў 1920–я г. адчуваўся ў Заходняй Беларусі і ў наступныя гады. Адна з камуністычных актывістак пасьля вывучэньня настрояў беларускага насельніцтва на Наваградчыне ў 1934 г. у сваёй справаздачы пісала:

> Што датычыць груп беларускай санацыі (Т[аварыства] Б[еларускай] А[сьветы]), то мне з такімі групамі на Наваградчыне не давялося сутыкнуцца і нібыта на Наваградчыне іх няма. Нягледзячы на гэта, уплыў Луцкевіча вельмі вялікі. [...] Гэты ўплыў ідзе на Наваградчыну праз розныя каналы. Напрыклад, на Наваградчыне ёсьць вельмі шмат розных ранейшых кніжак, накшталт хрэстаматыяў для старэйшых, усемагчымых беларускіх песьняў, календароў, беларускіх сьвятаў і г. д. Усё гэта прасякнута самым яскравым беларускім шавінізмам; па Наваградчыне ходзяць яшчэ да гэтай пары лекцыі Луцкевіча аб літаратуры, якія ён чытаў у Вільні яшчэ з часоў 26 году, калі гэта ўсё было прасякнута духам пэўнага прасаветызму. Я чытала адну такую кніжку, дзе ён піша пра Вільню, калі быў вывешаны на замку чырвоны сьцяг, дзе ён гэта апісвае як сымбаль і да т. п. [...] Цэлы шэраг песьняў старых беларускіх пісьменьнікаў, усялякія календары, на якіх напісаныя лёзунгі нацыянальнай еднасьці, усялякага кшталту беларускія партрэты — усё гэта ходзіць па Наваградчыне (цытуецца паводле: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусі. Ф. 242–п. Воп. 1. Спр. 390. А. 292). — *А. П.*

С. 303. ...*Станіслаў Станкевіч разьмясьціў сваю кнігарню, перавезеную з вуліцы Завальнай, і кіраваў ёй ад уласнага імя.* — У бягучым рэфэраце польскай палітычнай паліцыі аб дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у 1926 г. зьмяшчаецца трохі іншая вэрсія гэтых падзеяў:

> Кс. Станкевіч заявіў, што ён ня можа супрацоўнічаць у распаўсюджаньні сярод народу такіх газэтаў, як выдаваная Беларускай сялянска–работніцкай грамадой “Беларуская Ніва”, і таму загадаў, каб загадчык беларускай кнігарні (вул. Завальная, № 7) Станіслаў Станкевіч больш не прадаваў “Беларускай Нівы”. Тады Рак–Міхайлоўскі, Астроўскі і Тарашкевіч адчынілі для Беларускай сялянска–работніцкай грамады асобную кнігарню на вул. Астрабрамскай у доме № 1 і звольнілі Ст. Станкевіча.
> Апошні, страціўшы пасаду, пры дапамозе кс. Станкевіча адчыніў трэцюю кнігарню на вул. Астрабрамскай, № 2.
> Такім чынам, у Вільні, замест адной, як ра-

ней, існуюць адразу тры кнігарні, бо на Завальнай, № 7 кс. Станкевіч адчыніў яшчэ адну пад назвай “Kryniсa”

(цытуецца паводле: Беларускі дзяржаўны архіў–музэй літаратуры і мастацтва. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 195. А. 19). — *А. П.*

С. 304. *...паказьнік павялічыўся б да каля 1 пазыцыі на чытача...* — Гэты паказчык безумоўна ўзрос бы, калі б улічваць беларускамоўныя камуністычныя прапагандысцкія выданьні, пра якія вялася гаворка раней. Яны часта выдаваліся вялікімі накладамі і, нягледзячы на пазначэньне (для канспірацыі) цэнаў, распаўсюджваліся сярод насельніцтва бясплатна. — *А. П.*

С. 307. *...рукапіс якога трапіў у бібліятэку Беларускай акадэміі навук у Менску.* — Картатэка на беларускіх дзяячоў, складзеная Адольфам Клімовічам, сёньня захоўваецца ў ягоным асабістым фондзе ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: фонд 5, вопіс 1, адзінкі захаваньня 1, 2. — *А. П.*

С. 322. *...рэцэнзэнт падаў сьпіс кніг, якія не паказаныя ў Дадатку...* — У сьпіс, складзены Андранікам Антанянам, увайшлі наступныя выданьні:

**1921**

Лёсік Я. Нашая крыніца. — Вільня: I, Беларуская школьная рада, друкарня “Віленскага выдавецтва”, 1921. — 107 с.

Краўцоў М. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. — Вільня: V, “Беларускі Звон”, друкарня Б. Клецкіна, 1921. — 32 с.

Краўцоў М. Усебеларускі Зьезд 1917 г. — Вільня: “Беларускі звон”. Друкарня Б. Клецкіна, 1921. — 32 с.

**1922**

Смоліч Аркадзь. Географія. ч. II. Выд. 2–е. — Вільня: Віленскае беларускае выдавецтва Б. Клецкіна, 1922. — 367 с.

**1923**

Манцэвіч М. Як залажыць спажывецкі коопэратыў. — Вільня: Друк Я. Левіна, [пасьля 1923]. — 14 с.

**1926**

Stankiewič A. Pramova Pasła ks. Ad. Stankiewiča u Sojmie 24.IX.26. — [Вільня]: V, Biełaruskaja drukarnia imia Skaryny, 1926. — 16 s.

Гарэцкая Л. Родны Край. Першая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Выд. 4–е. — Вільня: Беларускае выдавецкае таварыства, Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны, 1926. — 95 с.

Прамовы дэпутатаў соймавага клюбу Беларускае сялянска–работніцкае грамады. — Вільня: Друкарня “Левін і сын”, 1926. — 83 с.

Прамовы дэпутатаў соймавага клюбу Беларускае сялянска–работніцкае грамады. друкарня “Левін і сын”, 1926. — 50 с.

**1927**

Гарэцкая Л. Родны Край. Трэцяя і чацьвертая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. — Вільня: Таварыства Беларускае Школы, Друкарня Клецкіна, 1927. — 208 с.

Закон аб выбарах да гмінных самаўрадаў. — Вільня: Цэнтральны Беларускі Нацыянальны Выбарны камітэт на Віленшчыну і Наваградчыну, друкарня Яна Баеўскага, 1927. — 16 с.

**1928**

Катэхізм для сяброў Царквы Мэтадыстаў, зьмяшчаючы збор хрысьціянскіх дактрынаў. — Вільня: Місія Мэтадыстаў, друк Я. Левіна, 1928. — 120 с.

**1929**

Беларускія (крывіцкія) казкі / Я. Станкевіч. — Вільня: Друкарня «Lux», 1929. — 48 с.

Biełaruskija relihijnyja pieśni. Выданы на правох рукапісу. — Вільня: Беларуская друкарня імя Ф. Скарыны, 1929. — 23 с.

Мэморыял Беларускага пасольскага клюбу ў Лігу Народаў. — Вільня: Беларускі пасольскі клюб, Беларуская друкарня імя Ф. Скарыны, 1929. — 8 с.

**1930**

Рай на зямлі. — Наваградак: Беспарцейны Блёк спаўпрацы з Урадам, Друкарня Wydziału Powiatowego w Nowogródku, 1930. — 24 с.

**1933**

Машара М. Вось тут і зразумей. Драматычны абразок у 2–х адслонах. — Вільня: Таварыства Беларускай Асьветы, Друк Я. Левіна, 1933. — 29 с.

**1934**

Маршалак Язэп Пілсудскі ў Вільні й на Віленшчыне. — Вільня: Выдавец “Dziennik Urządowy”, Друк Я. Левіна, 1934. — 96 с.

**1935**

Хвялоўскі З., Шайер В., Тарскі А. Геомэтрыя. Падручнік для III клясы гімназіяў / Пер. Р. Астроўскага, (на правох рукапісу). — Вільня: Выданьне беларускай філіі дзяржаўнае гімназіі імя Ю. Славацкага, 1935. — 164 с.

Зыдлер І. Геомэтрыя. Падручнік II клясы гімназіяў. — Вільня: Выданьне беларускай філіі дзяржаўнае гімназіі імя Ю. Славацкага, 1935. — 62 с.

**1936**

Аўэрбах М. і Дамброўскі К. Слоўнік да Disce Latine. Падручнік для II кл. гімназіяў / Пер. Анцукевіча М., (на правох рукапісу). Вільня: Выданьне беларускай філіі дзяржаўнае гімназіі імя Ю. Славацкага, 1936. — 44 с.

Кіта Б. Трыгонамэтрыя. Падручнік для VII і VIII клясаў гімназіі. Компіляцыя па Златчынскаму і Войнову. — Вільня: Выданьне беларускай філіі дзяржаўнае гімназіі імя Ю. Славацкага, 1936. — 119 с.

**1937**

Našaja praca. Padručnaja knižka dla trejciaje klasy pačatkovych školaŭ. — [Львоў]: Państwowe wydawnictwo książek, Druk Towarzystwa Naukowego im. Szewczenki, 1937. — 160 s.

Śpieŭnik biełaruskich narodnych pieśniaŭ. — Wilnia: Narodnaja Knižnica, I, 1937. — 32 s.

**1939**

Дубоўка У. І пурпуровых ветразей узьвівы. — Вільня: Калосьсе, Беларуская друкарня ім. Ф. Скарыны, 1939. — 31 с.

Інж. В. Б. Сакрэт Ураджаю, або якім насеньнем засяваць і як яго на сяўбу загатаўляць / Пер. А. К. — Вільня: Выданьне “Самапомачы”, 1939. — 46 с. — *А. П.*

С. 441. …*праваслаўных вяльможаў (Астроскага, Хадкевіча і іншых) да ўдзелу ў Радзе ВКЛ*. — Аўтар абыходзіць тут як прывілеі 1432 і 1434 г., так і той факт, што праваслаўныя княжаты і паны (Алелькавічы, Лугвенавічы ды інш.) бралі рэальны ўдзел у кіраваньні дзяржаваю і ў XV ст. — *А.С.*

С. 450. …*нашыя хвалёныя адраджэнцы XIX ст.*… — хвалёнымі беларускімі адраджэнцамі аўтар называе В. Дуніна–Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча. Першы зь іх вёў польскую школку, а другі рупіўся пра адкрыцьцё польскіх школак (гл. артыкул “Генэза і аўтарства першага беларускага лемантара”). — *А.С.*

# Іменны паказьнік*



* У гэтым паказьніку адлюстраванае толькі такое напісаньне імёнаў, прозьвішчаў і ініцыялаў, якое было засьведчана ў гэтым выданьні. — *Рэд.*

Падрыхтавалі Соф’я Багам’я
і Раман Маладзяшын



Сядзіба Іваноўскіх у Лябёдцы
Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Леанард Іваноўскі, бацька Вацлава.
Да разьдзелу “Нацыя
і нацыянальная сьвядомасьць”.



Ядвіга з дому Райхель Іваноўская,
маці Вацлава. Да разьдзелу “Нацыя
і нацыянальная сьвядомасьць”.



Галена з дому Райхель Карафа–Корбутава, цётка і выхавацелка Вацлава. Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Зьлева: літовец, паляк і беларус — браты Іваноўскія Тадас, Юры і Вацлаў каля 1895 г. Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Вінцук Валейка — пецярбурскі гімназіст. Каля 1900 г. Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Вацлаў Іваноўскі, студэнт Тэхналягічнага інстытуту ў Пецярбургу, 1904 г. Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Катажына Ячыноўская — спонсар беларускіх выданьняў у Кракаве ў 1903—1904 г., неўзабаве швагерка Вацлава Іваноўскага.
Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Вацлаў Іваноўскі — міністар асьветы БНР, восень 1918 г. Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Мар’ян Фальскі — студэнт Політэхнічнага інстытуту ў Варшаве, удзельнік кракаўскага выдавецкага праекту (стаіць трэці зьлева). Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.

Biełaruskaja wydaŭnickaja supołka
„Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce".
PIECIARBURH.
Wasiloŭ ostroŭ, 4-ta linija 45, kw. 16.

Беларуская выдаўницкая суполка
„Загляне сонцэ и у нашэ аконцэ"
ПЕЦЯРБУРГ.
Васил1оў остроў, 4-я лин. 45, кв. 16.

160

Šanoŭny Panie!
My z daŭna wiedajem, ab Was, što Wy ŭmieŭ pracawali i rady pracawać dla biełaruskaha narodu, to ci nie byli b Łaskawy apisać našu ziamlicu — biełaruś, ab wydać kniżačka dla čytańnia nie lišnie dachaje.

Spałaczeńnia supołki
sekretar Wład Hołub

19 29/VIII 06

159

Počtowaja pisulka. Почтовая писулька.

Почт. ст. Узляны Минскай губ.

Вяльможнаму Пану
Александру Ельскаму
у дваре Замосьце

Ліст выдавецкай суполкі “Загляне сонца і ў наша аконца” да Аляксандра Ельскага з прапановай супрацоўніцтва.
Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Браніслаў Туронак.
Да кнігі “Памяці Браніслава Туронка”.



Ксёндз Станіслаў Глякоўскі.
Да артыкула “Трагізм і загадкавасьць лёсаў”.



Удзельнікі беларускага гуртка ў Рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу на пачатку 1917 г. Зьлева направа: Міхал Пятроўскі, Антон Матвейчык, Андрэй Цікота, Антон Неманцэвіч, Карл Лупіновіч, Адам Станкевіч. Да артыкула “Падрэзаныя крылы”.



Камандуючы 10-й акупацыйнай арміяй генэрал Эрых фон Фалькенгайн, 1918 г.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.




Такія пашпарты выдаваліся ў 1916 г.
жыхарам Беласточчыны і Гарадзеншчыны. Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Вучні беларускай народнай школы ў вёсцы Грабавец на Бельшчыне з настаўніцай Верай Матэйчук, 1917—1918 г.
Да артыкула “Нарыс разьвіцьця школьніцтва на Беласточчыне 1773—1939 г.”



Беларуская школа ў вёсцы Клейнікі на Бельшчыне, 1943 г.
Настаўнікі: Давыд Дземянюк і Людміла Васілюк.
Да артыкула “Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе”.



Вацлаў Іваноўскі з групай студэнтаў Варшаўскай палітэхнікі, 1925 г.
Да разьдзелу “Нацыя і нацыянальная сьвядомасьць”.



Вацлаў Іваноўскі ў 30–я гады.
Да разьдзелу “Нацыя
і нацыянальная сьвядомасьць”.



Вацлаў Іваноўскі ў 1943 г. (партрэт Пятра
Сергіевіча). Да разьдзелу “Нацыя
і нацыянальная сьвядомасьць”.



Вера Маслоўская сярод удзельнікаў Праскай усебеларускай канфэрэнцыі, верасень 1921 г.
Да артыкула “Непакорная Вера”.



Вера Маслоўская на Працэсе 45–і ў Беластоку, май 1923 г.
Да артыкула “Непакорная Вера”.



Непакорная Вера, 70–я гады.
Да артыкула “Непакорная Вера”.



Сустрэча з жыхарамі заходніх раёнаў Беларусі, чэрвень 1941 г.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Сьвяткаваньне 25–годзьдзя Віленскай беларускай гімназіі, 1944 г. У першым радзе сядзяць другі справа — Станіслаў Грынкевіч, каля яго справа ў форме — Францішак Кушаль, за ім стаіць Натальля Арсеньнева. У цэнтры сядзіць Аўген Калубовіч. У другім радзе стаяць: першы справа — Мікола Шчорс, другі зьлева — Янка Станкевіч. Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Абвяшчэньне новага аграрнага парадку, вясна 1942 г.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Кубэ на сьвяткаваньні дажынкаў у Менску, кастрычнік 1942 г.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Калектыў Менскага малочнага заводу маршыруе
на першамайскую ўрачыстасьць, 1943.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



З надзеяй на супрацоўніцтва: Кубэ і член Рады даверу Аўген Калубовіч.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Вучні і настаўнікі Маладэчанскай сярэдняй адміністрацыйна–гандлёвай школы, 1943 г. Сядзіць другі зьлева Барыс Кіта. Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Выпускнікі і настаўнікі 29-й Менскай народнай школы, 3.07.1943 г. Сядзіць дырэктар школы Пётар Кісель, у апошнім радзе стаяць хлопцы зьлева направа: Лёня Шкода, Вітаўт Кіпель і Жэня Кулін. Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Курсанты і настаўнікі Шчучынскай настаўніцкай сэмінарыі, 1942—1943 г.
Сядзяць зьлева направа: Віктар Ярмалковіч, Пётар Рамук, Гарбацэвіч, стараста Мельнік, Ганна Касьцевіч, дырэктар сэмінарыі Аляхновіч, Ніна Гарбацэвіч, невядомая і настаўнік Беразоўскі. Да разьдзелу "Вайна і акупацыя".



Акцёры Менскага гарадзкога тэатру на гастролях у Слоніме, 1943 г.
Да разьдзелу "Вайна і акупацыя".



Аляксандар Валкавыцкі.
Да артыкула “Памяці Аляксандра Валкавыцкага”.



М. Арол (сапр. Сьцяпан Пяцельскі).
Да артыкула “М. Арол — нашаніўскі пясьняр Беласточчыны”.





Беларуская пачатковая школа ў Варшаве, 1942—1944 г. Стаяць: першы зьлева ксёндз Пётар Татарыновіч, ля печы — Мікола Шчорс, старшыня Беларускага камітэту ў генэрал–губэрнатарстве, Клеапатра Паўлоўская, кіраўнічка школьнага інтэрнату, Васіль Літвінчык, кіраўнік школы.
Да артыкула “Школа на Сьвентаерскай вуліцы”.



Беларуская дапаможная паліцыя, 1942 г.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Супрацьпартызанскія акцыі ў Беларусі, рысунак Вільгельма Пэтэрсэна.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Юначкі Саюзу беларускай моладзі на экскурсіі ў Нямеччыне, ліпень 1943 г.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.




Гальляш Леўчык, 1900-я г.
Да артыкула “Пра Гальляша Леўчыка”.



Прэзыдэнт Беларускай цэнтральнай рады
Радаслаў Астроўскі.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.

Дзеячы Беларускага культурнага згуртаваньня, Менск, 1944 г. Сядзяць зьлева направа: Мікола Шчаглоў, Натальля Арсеньнева, Вячаслаў Селях–Качанскі, Аўген Калубовіч.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Прысяга салдат Беларускай краёвай абароны, Менск 26.03.1944 г.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.

РАНІЦА
ПАГОНЯ
ВЕДАМАСЬЦІ
ГОЛАС ВЁСКІ
БЕЛАРУСКІ РАБОТНІК
Słonimski kurjer
ГАЗЭТА СЛУЧЧЫНЫ
Новы шлях
BIEŁARUSKI HOŁAS
BARANAVIČKAJA HAZETA
BIEŁARUSKAJA ŠKOŁA
НОВАЯ ДАРОГА
Weissruthenische Zeitung
Biełaruskaja Hazeta
БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА
УЗВЫШША
Малады змагар

Газэты і часопісы, якія выдаваліся ў часе вайны.
Да разьдзелу "Вайна і акупацыя".



Готбэрг абвяшчае заснаваньне Беларускай цэнтральнай рады.
Да разьдзелу "Вайна і акупацыя".



Іван Ермачэнка, старшыня Беларускай народнай самапомачы.
Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Галоўная рада Беларускай народнай самапомачы, ліпень 1942. Сядзяць зьлева направа: Іван Касяк, Павал Сьвірыд, архіяпіскап Філафей, Іван Ермачэнка, Вінцэнт Гадлеўскі, Вацлаў Іваноўскі.  Да разьдзелу “Вайна і акупацыя”.



Настаўніцкая канфэрэнцыя ў Беластоку, 1943—1944 г. На першым пляне зьлева направа: Аляксандар Валкавыцкі, Яўгенія Лічбанская, Уладзімер Карчэўскі, Вера Матэйчук-Карчэўская, ззаду ў акулярах Уладзімер Тамашык, старшыня беластоцкага Беларускага аб'яднаньня.
Да артыкула "Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе".



Беларуская школа ў Гайнаўцы, 1942 г. Сядзяць настаўнікі зьлева направа: Бурак, айцец Серафім Жалезьняковіч, Тацяна Сафроненка, Надзея Мэльцэр.
Да артыкула "Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе".


Гайновский отдел народного образования от 2.VIII.44.

Удостоверение.

Пред'явитель сего Петручук Владимир Харитонович командируется в д. Старо-Корнин для востоновления начальной школы. Срок командировки до 1 сентября.

Зам. Зав. РайОНО [signature]

2.VIII.44 год.

Летам 1944 г., да канчатковага вызначэньня дзяржаўнай граніцы, школы на Гайнаўшчыне аднаўляліся савецкімі органамі.
Да артыкула “Беларускае школьніцтва ў пасьляваенны пэрыяд”.



Беларуская гімназія ў Бельску, 1945 г. Вучні трэцяй клясы з настаўнікамі зьлева направа: А.Тымінскім і Яраславам Кастыцэвічам.
Да артыкула “Беларускае школьніцтва ў пасьляваенны пэрыяд”.

Kierownikowi i nauczycielom

W Polskiej obowiązuje mówić i uczyć po polsku mieszkac Polakóm. Wara wszystkim innym z ich mowo i szkołami białorusam, ukraincam mejsce w sowieckim raju. A kto nie usłucha tego wezwania niech szykuje się na łono Abrahama, tak mówi – Duch Puszczy

Dowódca oddz. wykonaw
Ciemny
p.p.

Падпольная лістоўка, дасланая вясной 1946 г. кіраўніку пачатковай школы ў Міхалове Беластоцкага павета Аркадзю Зіневічу.
Да артыкула “Беларускае школьніцтва ў пасьляваенны пэрыяд”.

Цэнтральны курс настаўнікаў беларускай мовы ў Аўгустове, ліпень 1954 г. У цэнтры сядзяць зьлева направа: Уладзімер Станкевіч зь міністэрства асьветы (у акулярах), Ганна Фідроўская — выкладнік БДУ ў Менску, мясцовыя настаўнікі Ільля Бернат і Мікола Лебядзінскі.
Да артыкула “Беларускае школьніцтва ў пасьляваенны пэрыяд”.